І. К. БЯЛЬКЕВІЧ

# КРАЁВЫ СЛОЎНІК УСХОДНЯЙ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ

МІНСК · 1970


ДУБРОЎНА
ОРША
СМАЛЕНСК
КРАСНАЕ
ШКЛОЎ
ГОРКІ
МАГІЛЁЎ
Вяхра
МАНАСТЫРШЧЫНА
ДРЫБІН
Друць
Днепр
Проня
РАСНА
МСЦІСЛАЎ
ХІСЛАВІЧЫ
ЧАВУСЫ
Сож
БЫХАЎ
КРЫЧАЎ
РОСЛАЎ
ЧЭРЫКАЎ
Сож
ШУМЯЧЫ
РАГАЧОЎ
СЛАЎГАРАД
МІЛАСЛАВІЧЫ
КЛІМАВІЧЫ
КРАСНАПОЛЛЕ
КАСЦЮКОВІЧЫ
ХОЦІМСК
БЯЛЫНКАВІЧЫ
Бесядзь
Іпуць
ГОМЕЛЬ
Днепр
Сож
НАВАЗЫБКАЎ

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

І. К. БЯЛЬКЕВІЧ

# КРАЁВЫ СЛОЎНІК УСХОДНЯЙ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ

ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА»
МІНСК 1970

Б99
4Бел(03)

РЭДАКТАРЫ
доктар філалагічных навук
М. В. БІРЫЛА,
кандыдат філалагічных навук
А. А. КРЫВІЦКІ

**Бялькевіч І. К.**

**Б99** Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. Мн., «Навука і тэхніка», 1970.

512 с. (АН БССР. Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа). 1000 экз. 2 р. 02 к. У перапл.

У слоўніку падаецца больш 20 тысяч слоў, характэрных для дыялектнай мовы беларусаў усходніх раёнаў сучаснай Магілёўскай вобласці, з тлумачэннем іх значэння і ілюстрацыямі. Слоўнік досыць шырока адлюстроўвае стан і асаблівасці жывой мовы насельніцтва ўсходняй часткі Магілёўшчыны ў 20-я гады нашага стагоддзя.

7-1-5
37-70

4Бел(03)

# І. К. БЯЛЬКЕВІЧ І ЯГО СЛОЎНІК

Вялікі Кастрычнік прынёс беларускаму народу сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, адкрыў перад ім нечуваныя раней магчымасці для развіцця ўласнай культуры і навукі. Беларуская мова, якая царскім самаўладствам выдавалася за дыялект рускай і была пазбаўлена афіцыйных праў, абвяшчаецца дзяржаўнай і пачынае абслугоўваць усе сферы грамадскага і культурнага жыцця маладой рэспублікі. Праўда, у першыя гады паспяхова спраўляцца з новымі функцыямі яна не магла, бо не мела спецыяльнай тэрміналогіі і была неўнармаванай з боку лексічнага, граматычнага, арфаэпічнага і правапіснага. Вось чаму адразу ж асаблівую актуальнасць набывае задача яе ўзбагачэння і навуковай апрацоўкі. З гэтай мэтай 10 лютага 1921 г. пры Народным камісарыяце асветы БССР была створана навукова-тэрміналагічная камісія ў складзе гуманітарнай, прыродазнаўчай і матэматычнай секцый, якой даручалася «апрацаваць і выдаць у спешным парадку навуковую тэрміналогію на першы час хоць бы для карыстання ёю ў пачатковых і сярэдніх беларускіх навучальных установах, а таксама скласці і выдаць шэраг беларускіх падручнікаў, пачынаючы ад беларускага лемантара» [1].

Аб'яднаўшы вакол сябе нешматлікія сілы тагачаснай беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, навукова-тэрміналагічная камісія шырока разгарнула сваю работу ў вызначаным перад ёю кірунку. На працягу года яна апрацавала і зацвердзіла каля 10 тысяч тэрмінаў па мове, літаратуры, матэматыцы і іншых галінах ведаў у аб'ёме сярэдняй школы, дамовілася са спецыялістамі аб напісанні некаторых падручнікаў, прыняла пэўныя захады для арганізацыі нацыянальнай выдавецкай справы і г. д. Аднак надзённыя патрэбы адроджанай Беларусі не абмяжоўваліся толькі апрацоўкай мовы і выданнем школьных падручнікаў. Жыццё ставіла на парадак дня і іншыя задачы, паспяхова вырашаць якія магла б толькі спецыяльная навуковая ўстанова. Таму ў пачатку 1922 г. пастановай Савета Народных Камісараў БССР навукова-тэрміналагічная камісія рэарганізуецца ў Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт), заданнем якога было «планавае даследаванне Беларусі з боку яе мовы, літаратуры, этнаграфіі, гісторыі, прыроды, эканомікі, сацыяльна-эканамічнага руху і інш., а таксама аб'яднанне ў гэтых галінах усяе працы, якая вядзецца як установамі, так і асобнымі даследчыкамі» [2].

Спачатку Інбелкульт складаўся толькі з дзвюх секцый — гуманітарнай і прыродазнаўчай, а з 1924 г. пры ім арганізуецца яшчэ сем — этнаграфічная, геаграфічная, мастацкая, юрыдычная, педагагічная, медыцынска-ветэрынарная і сацыяльна-эканамічная, а таксама Цэнтральнае бюро краязнаўства. Секцыі звычайна дзяліліся на камісіі. Так, пры гуманітарнай секцыі былі выдзелены тэрміналагічная, слоўнікавая і літаратурна-даследчая камісіі.

Кожная з гэтых камісій працавала вельмі плённа. Напрыклад, тэрміналагічная камісія за 8 гадоў (з 1922 па 1930) выдала 24 выпускі беларускай навуковай тэрміналогіі па розных галінах ведаў, па заданню і пад кіраўніцтвам слоўнікавай камісіі было ўкладзена і выдадзена некалькі двухмоўных перакладных слоўнікаў — «Практычны расійска-беларускі слоўнік» (1924, 1926) М. Байкова і М. Гарэцкага, «Беларуска-расійскі слоўнік» (1926) М. Байкова і С. Некрашэвіча, «Расійска-беларускі слоўнік» (1928) С. Некрашэвіча і М. Байкова і інш.

У 1925 г. пры гуманітарнай секцыі на базе слоўнікавай камісіі ствараецца камісія па ўкладанню слоўніка жывой беларускай мовы. Гэты слоўнік планаваўся як тлумачальны нарматыўнага тыпу і павінен быў падаць усе найбольш вядомыя беларускія словы незалежна ад сферы іх ужывання і стылістычнай размежаванасці.

Укладанню слоўніка жывой беларускай мовы надавалася вельмі вялікае значэнне.

[1] І. Каранеўскі. Інстытут беларускай культуры. «Наш край», 1927, № 10, стар. 16.

[2] Положение об Институте белорусской культуры. Собрание узаконений и распоряжений рабоче-крестьянского правительства Социалистической Советской Республики Белоруссии, 1924, № 18, стр. 161.

Так, старшыня слоўнікавай камісіі С. М. Некрашэвіч адзначаў: «У сучасны момант сярод усёй іншай навуковай працы на Беларусі мы не бачым другой такой важнай, патрэбнай і неадкладнай, як праца па ўкладанню слоўніка нашай мовы. А дзеля гэтага не трэба шкадаваць ні сіл, ні сродкаў» [3].

Перш чым пачаць укладанне слоўніка, неабходна было сабраць лексічны матэрыял як з друкаваных крыніц, так і з беларускіх гаворак, выявіць усе жывыя слоўныя багацці, якія мела беларуская мова ў першай чвэрці XX ст. Зрабіць гэта за кароткі тэрмін толькі сваімі сіламі слоўнікавая камісія не магла, і яна звярнулася за дапамогай да настаўнікаў, студэнтаў, да ўсёй інтэлігенцыі, разаслаўшы ў мясцовыя краязнаўчыя таварыствы, якіх, дарэчы, тады ў Беларусі налічвалася даволі многа, спецыяльныя інструкцыі-праграмы. Дапамогі не давялося доўга чакаць. У работу па збору беларускай лексікі ўключыліся тысячы людзей рознага ўзросту, адукацыі і роду заняткаў, для якіх усе мерапрыемствы Савецкай улады, накіраваныя на развіццё нацыянальнай культуры і навукі, былі блізкімі і дарагімі. Ужо за тры гады (1926—1928) у адрас камісіі былі прысланы 119153 словы, сабраныя ў розных кутках Беларусі «непасрэдна з народных вуснаў» [4]. Нямала паступіла слоў, выпісаных з друкаваных крыніц — мастацкіх твораў, навуковых прац і г. д.

Збор мясцовага моўнага матэрыялу для нарматыўнага слоўніка жывой беларускай мовы камісія ўвязвала з задачай укладання беларускіх краёвых (абласных) слоўнікаў. Вырашана было ўкласці па аднаму такому слоўніку на кожную з 10 акруг тагачаснай Савецкай Беларусі і паасобныя слоўнікі беларускіх гаворак на тэрыторыі РСФСР і Польшчы. Укладанне краёвых слоўнікаў даручалася акруговым краязнаўчым таварыствам. У 20-х гадах з усіх запланаваных былі завершаны толькі тры слоўнікі гэтага тыпу: «Віцебскі краёвы слоўнік» (1927), «Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны» (1929) і «Слоўнік Мазыршчыны». Апошні, на жаль, не быў выдадзены, і рукапіс яго загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны.

У 1928 г. пры Інбелкульце была створана камісія па ўкладанню гістарычнага слоўніка беларускай мовы. Яна ў хуткім часе распрацавала асноўныя прынцыпы пабудовы гэтага слоўніка і пачала падрыхтоўку картатэкі.

Як бачым, адразу ж пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі слоўнікавая работа ў Беларусі набыла шырокі размах і вялася адначасова ў некалькіх напрамках. У працэсе гэтай работы раслі і нацыянальныя кадры лексікографаў, якія ўнеслі значны ўклад у беларускую лексікаграфію. Сярод іх пачэснае месца належыць Івану Кандратавічу Бялькевічу, самаадданаму працаўніку на ніве роднай культуры.

Нарадзіўся І. К. Бялькевіч 6 сакавіка 1883 г. у вёсцы Варонічы Слонімскага павета Гродзенскай губерні ў беднай сялянскай сям'і. Паспяхова скончыўшы пачатковую школу, некаторы час працаваў так званым «дарэктарам» — вучыў дзяцей-аднавяскоўцаў. Разам са сваімі вучнямі настойліва вучыўся і сам, марачы прадоўжыць адукацыю. У 1905 ён паступіў і ў 1909 г. скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, пасля чаго працаваў загадчыкам чатырохкласнай школы ў вёсцы Бракава Слонімскага павета. У 1915 г. з набліжэннем фронту мясцовае насельніцтва было эвакуіравана ў глыбокі тыл, і Бялькевіч апынуўся на Саратаўшчыне. Там ён і сустрэў Кастрычніцкую рэвалюцыю.

Неўзабаве Іван Кандратавіч вяртаецца на радзіму і працуе спачатку загадчыкам Вароніцкай беларускай школы, а потым інспектарам беларускіх школ Слонімскага павета. Педагагічную работу ён спалучае з грамадскай: часта выступае перад насельніцтвам з гутаркамі і дакладамі аб міжнародным становішчы і мерапрыемствах Савецкай улады, дапамагае праводзіць у жыццё рашэнні мясцовых камітэтаў беднаты і г. д. Аўтарытэт яго як здольнага педагога і арганізатара ўвесь час рос.

У жніўні 1920 г. Народны камісарыят асветы БССР выклікае Бялькевіча на сталую працу ў Мінск і прызначае яго загадчыкам беларускага аддзела ў апараце Камісарыята, а па сумяшчальніцтву адначасова настаўнікам 36 гарадской школы і загадчыкам вячэрняй школы № 2 па ліквідацыі непісьменнасці.

Праз год без адрыву ад вытворчасці Бялькевіч паступае на этнолага-лінгвістычнае аддзяленне толькі што адкрытага Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Спалучаць работу і вучобу было цяжка, прыходзілася недасыпаць начамі. Праўда, у такім становішчы знаходзілася большасць тагачасных студэнтаў універсітэта. І сярод іх Бялькевіч быў адным з самых актыўных і добрасумленных: не прапускаў ніводнай лекцыі, выступаў на семінарах з грунтоўнымі навуковымі рэфератамі па пытаннях беларускай і рускай філалогіі, удзельнічаў у розных гуртках. Ужо ва універсітэце выявіліся навуковыя схільнасці Бялькевіча: яго любімым прадметам становіцца беларускае мовазнаўства наогул і беларуская лексікаграфія ў прыватнасці. Яшчэ студэнтам ён па заданню слоўнікавай камісіі Інбелкульта збірае лексічны матэрыял для тлумачальнага слоўніка беларускай мовы, распісваючы на карткі творы Ядвігіна Ш. і М. Багдановіча. Адначасова Іван Кандратавіч запісвае і сістэматызуе беларускія словы з іншамоўнымі каранямі, мяркуючы скласці слоўнік іх, які быў бы добрым даведнікам і паказальнікам эканамічных і культурных сувязей беларускага народа з суседнімі народамі ў розныя гістарычныя эпохі. Гэтай працай ён займаўся і пазней, і яна ўжо была блізкай да завяршэння, аднак рукапіс яе загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны.

У верасні 1925 г. Бялькевіч паспяхова скончыў універсітэт. Пры размеркаванні на работу яму былі прапанаваны два месцы:

[3] «Полымя», 1925, № 5, стар. 186.

[4] М. Байкоў. Слоўнікавая праца на месцах у БССР за тры гады (1925—1928). «Наш край», 1928, № 12, стар. 51.

выкладчыка беларускай мовы і літаратуры ў Камуністычным універсітэце нацыянальных меншасцей Захаду і дырэктара толькі што адкрытага Мсціслаўскага педагагічнага тэхнікума. Іван Кандратавіч выбраў другое, бо яно як нельга лепш стасавалася з яго далейшымі навуковымі планамі. Справа ў тым, што ён па просьбе слоўнікавай камісіі Інбелкульта згадзіўся ўзначаліць укладанне краёвага слоўніка Калініншчыны, на тэрыторыі якой і знаходзіўся Мсціслаў.

Прыехаўшы на месца работы, Бялькевіч адразу ж бярэцца за даручаную Інбелкультам справу. На збор слоўнікавага матэрыялу ён мабілізуе ўсіх краязнаўцаў, студэнтаў педтэхнікума, мясцовых настаўнікаў. Праз год у яго было больш ста пастаянных карэспандэнтаў у розных населеных пунктах Калініншчыны і суседніх з ёю акруг. Не пакладаючыся цалкам на мясцовых карэспандэнтаў, Іван Кандратавіч часта ў вольны час выязджаў у раёны сам, каб занатаваць новыя словы і праверыць дасланыя з месц. Агульныя намаганні далі добры плён. Картатэка будучага слоўніка хутка расла. К канцу 1926 г. яна ўжо налічвала больш 15 тысяч лексічных адзінак.

Восенню 1926 г. Бялькевіч удзельнічаў з правам рашаючага голасу ў рабоце Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і алфавіта, скліканай Інбелкультам. Амаль усе яго выступленні на гэтай канферэнцыі па найбольш дыскусійных пытаннях вызначаліся прадуманасцю і навуковай абгрунтаванасцю. Зыходзячы з таго, што літаратурная мова павінна засноўвацца на большасці гаворак, але ўлічваць ступень іх тэрытарыяльнага пашырэння, Бялькевіч даводзіў неабходнасць перадачы на пісьме ненаціскнога *е* праз *я* ў першым складзе перад націскам, а ненаціскнога *о* праз *а* ва ўсіх складах, звяртаў увагу ўдзельнікаў канферэнцыі на недакладнасць існуючага правіла аб правапісе канчаткаў *а(я)—у(ю)* у форме роднага склону адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду. Рашуча выступаў Бялькевіч супраць уввядзення ў беларускі алфавіт літары *j* пры захаванні *е, ё, ю, я*, а таксама надрадковых знакаў або спецыяльных літар для перадачы афрыкат *дз, дж* і спалучэння *шч*, аргументуючы гэта тым, што ўсе падобныя змены парушаць сістэму нашай графікі і не спросцяць правапіс, а значна ўскладняць яго. Памылковым у Бялькевіча было толькі сцверджанне адносна літары *ф*. Не ўлічыўшы розніцы паміж беларускай літаратурнай мовай і беларускай мовай жывой, а таксама тых тэндэнцый развіцця, якія намячаліся ў апошняй, ён прапаноўваў выкінуць з беларускага алфавіта гэту літару на той падставе, што быццам бы гук, які ёю абазначаецца, жывой беларускай мове неўласцівы [5].

У верасні 1927 г. Бялькевіч пераязджае ў Мінск і пачынае працаваць ў Інбелкульце, спачатку сакратаром аддзела гуманітарных навук, а пасля вучоным спецыялістам слоўнікавай камісіі. Сувязей са сваімі калінінскімі карэспандэнтамі ён не траціць і па-ранейшаму атрымлівае ад іх спісы мясцовых слоў, пры кожным зручным выпадку едзе на Калініншчыну сам, адначасова вывучае матэрыялы слоўнікавай камісіі, выбірае дыялектныя словы з фальклорных запісаў, зробленых на Магілёўшчыне, і з мастацкіх твораў пісьменнікаў — ураджэнцаў Магілёўшчыны.

Працуючы ў асяроддзі такіх высокадасведчаных мовазнаўцаў, як П. Бузук, Я. Воўк-Левановіч, С. Некрашэвіч і інш., Бялькевіч авалодвае метадамі складанай лексікаграфічнай работы і ў хуткім часе вызначае структуру, характар і аб'ём слоўніка, прынцыпы пабудовы слоўнікавых артыкулаў. Часопіс «Наш край», паведамляючы аб ходзе работы над укладаннем краёвых слоўнікаў, падрабязна характарызаваў працу Бялькевіча: «Словы на першыя літары слоўніка ўжо апрацаваны ўкладальнікам. Розніцу Калінінскага слоўніка параўнальна з Віцебскім і Мазырскім складае тое, што тут даюцца не пераклады беларускіх слоў у расійскую мову, а іх тлумачэнне ў беларускай жа мове» [6].

Паралельна з работай над укладаннем слоўніка Бялькевіч даволі часта выступае ў перыядычным друку. Так, у адным з нумароў часопіса «Узвышша» за 1928 г. апублікавана яго рэцэнзія на «Слоўнік граматычна-лінгвістычнай тэрміналогіі», падрыхтаваны тэрміналагічнай камісіяй Інбелкульта. Адзначыўшы, што камісія ўважліва аднеслася да апрацоўкі тэрмінаў, рэцэнзент асноўную ўвагу звяртае на недахопы гэтай працы. Добра разумеючы, што навуковыя тэрміны павінны быць адназначнымі, што аманімія тут — справа недапушчальная, ён катэгарычна выступае супраць перадачы тэрміна «интонация» беларускім словам «вымова», бо гэта ж слова аўтары рэкамендавалі і як адзін з беларускіх адпаведнікаў да рускага тэрміна «акцент» (поруч з «акцэнт», «націск»). Бялькевіч тут жа зрабіў заўвагі. Напрыклад, у слоўніку прапаноўвалася рускія тэрміны «неопределенная форма глагола» і «неопределенное местоимение» па-беларуску перадаваць «неазначальная або неазначаная форма дзеяслова», «неазначальны або неазначаны займеннік». Адносна гэтага Бялькевіч пісаў: «Ці не лепш было б устанавіць тэрмін «нявызначаны»? Ён лепш бы адпавядаў сапраўднасці, бо тэрмін «неазначальны» паказвае, што слова гэта (дзеяслоў, займеннік і г. д.) нічога не азначае» [7]. Гэта надзвычай тонкая і каштоўная заўвага рэцэнзента не была ў свой час прынята пад увагу, а потым пра яе зусім забыліся. І на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў нашы граматыкі гаварылі пра «неазначальную форму дзеяслова», «неазначальныя займеннікі», «неазначальна-колькасныя лічэбнікі», «неазначальна-асабовыя сказы». Усе пералічаныя тэрміны ўвайшлі ва ўжытак, хоць сутнасць

[5] Працы Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Мінск, 1927, стар. 160—165, 238, 285—287.

[6] «Наш край», 1928, № 12, стар. 50—51.
[7] «Узвышша», 1928, № 2, стар. 206.

абазначаемых з'яў яны зацямнялі, падавалі ў неправільным святле. І толькі ў акадэмічнай «Граматыцы беларускай мовы» (т. I, 1962; т. II, 1966) замест ранейшых тэрмінаў «неазначальна-колькасныя лічэбнікі», «неазначальныя займеннікі», «неазначальна-асабовыя сказы» ўведзены новыя тэрміны «няпэўна-колькасныя лічэбнікі», «няпэўныя займеннікі», «няпэўна-асабовыя сказы», навукова абгрунтаваныя Б. С. Лапавым [8]. Такім чынам, хоць пытанне вырашылася іншым шляхам, як прапаноўваў Бялькевіч, аднак важна тое, што ён першы звярнуў на яго ўвагу. У гэтай жа рэцэнзіі Іван Кандратавіч выступіў таксама супраць тэрмінаў «дробны лічэбнік», «збольшаны назоўнік», прапанаваўшы замацаваць адпаведнікі, якімі, дарэчы, мы карыстаемся і цяпер,— «дробавы лічэбнік», «павелічальны назоўнік», раіў уключыць у слоўнік рад іншых лінгвістычных тэрмінаў — «выдыхальны націск», «гіпатаксіс», «інверсія», «неалагізм», «наватвор», «перыфраза» і інш.

Цікавымі з'яўляюцца артыкулы Бялькевіча, прысвечаныя пытанням культуры беларускай літаратурнай мовы. Так, у «Карэктывах да слова «маецца» («Узвышша», 1925, № 5) ён рэзка крытыкуе часта ўжывальныя тады газетныя выразы тыпу: «у нас маецца магчымасць пабудаваць», «маецца некалькі лішніх рублёў», «маецца некалькі спісаў беларускай рэдакцыі гэтага твора», у якіх дзеяслоў *маецца* выступаў з не ўласцівым беларускай мове значэннем. Правільныя значэнні гэтага дзеяслова Бялькевіч паказвае на прыкладах з беларускай народнай мовы: «Беларус-селянін, а таксама і інтэлігент, што ведае добра беларускую мову, спаткаўшыся з сваяком, прыяцелем ці проста добрым знаёмым, папытаецца: «Як маешся?» Гэта азначае: «Як тваё здароўе, у якім стане? І наогул, як ідзе тваё жыццё, справы?» — «Як жонка твая маецца, дзеткі?» — «Дзякую, жыву памалу, як ты сабе маешся?» Ёсць і іншы сэнс слова *маецца*. У кантэксце слоў: «Меўся (меў сабе) сёння паехаць у лес, але малаціць трэба,— хлеб на сходзе»,— *меўся* выражае паняцце *думаў, хацеў, меркаваў* паехаць у лес (але другая работа прыспела). Тое самае паняцце будзе і ў выразах: «Меліся прадаць карову, але перадумалі»; «Меліся абгаварыць гэтае пытанне на сходзе». У фразе: «Паеду на вакзал па брата, — маецца сёння прыехаць», гэта слова ўжо паказвае на некаторую павіннасць (маецца — павінен прыехаць, параўн. «А пісар земскій маеть по-руску пісаті» — Літ. стат.). Як бачым з гэтых прыкладаў, слова *маецца* ў гутарцы народа ні ў якой меры не адпавядае расійскаму *имеется*, а значыць, у значэнні апошняга яго нельга дапускаць і ў літаратурнай мове. Ужыванне «маецца» ў значэнні «ёсць» у беларускай мове робіць блытаніну паняццяў» [9].

У нататцы «Аб слове *акаляць*» («Узвышша», 1928, № 2) [10] Бялькевіч рэзка выступіў супраць ужывання ў беларускай літаратурнай мове слоў *акаляць* і *акаляючы* са значэннем рускіх *окружать, окружающий*. Замест іх ён прапаноўваў іншыя аднашначныя сінонімы, характэрныя для жывой беларускай мовы: «У жывой беларускай мове ёсць словы — *вакол, навакол, наўкол*, якія дасканала перадаюць сэнс расійскіх *вокруг, кругом*. Селянін ніколі не скажа інакай, як *наўкольныя вёскі* або *вакольныя вёскі* (таму і *ваколіца*), а дзеля гэтага трэба і ў літаратурнай мове ўжываць *наўкольныя, вакольныя ўмовы, абставіны* і г. д.» [11]

Прапанова Бялькевіча аб беларускім адпаведніку да рускага слова *окружающий* (мир, условия) пазней была ўлічана ўкладальнікамі беларускіх нарматыўных слоўнікаў: у «Руска-беларускім слоўніку» (1953) і ў «Беларуска-рускім слоўніку» (1962) слова *акаляючы* ўжо не фіксуецца. Значыць, пункт погляду аўтара даўняй нататкі быў правільным.

Неўзабаве творчыя планы Бялькевіча парушыліся. У 1930 г. яму прыйшлося назаўсёды пакінуць Беларусь. Чатыры гады ён жыве ў горадзе Йошкар-Ола Марыйскай АССР і працуе тэхнікам-нарміроўшчыкам на лесазаводзе, а ў 1935 г. пераязджае ў Азова-Чарнаморскі край і выкладае рускую мову і літаратуру спачатку ў Натальеўскай сярэдняй школе, затым у школах Жданава (былы Марыупаль). З 1948 па 1955 г. Іван Кандратавіч займаў пасаду загадчыка навучальнай часткі вучэбнага пункта «Азоўстальбуд», а з 1955 і да выхаду на пенсію ў 1958 г. быў інжынерам-метадыстам Жданаўскага філіяла Данецкага вячэрняга будаўнічага тэхнікума. Увесь гэты час ён не спыняў работы над слоўнікам і ў 1959 г. завяршыў яго. На вялікі жаль, убачыць гэты слоўнік надрукаваным Бялькевічу не давялося: 18 кастрычніка 1960 г. ён раптоўна памёр.

Клопаты аб выданні слоўніка пасля смерці Бялькевіча ўзяла на сябе яго жонка Ніна Мікалаеўна Улашчык і сын Усяслаў Іванавіч Бялькевіч. Н. М. Улашчык разам з рэдактарамі і выдавецтвам прарабіла вялікую работу, рыхтуючы слоўнік да выдання: правяла зверку матэрыялаў слоўніка з картатэкай у спрэчных і няясных выпадках, дапоўніла асобныя артыкулы ілюстрацыямі, удакладняла даведачны апарат у артыкулах, вычытвала і вывярала падрыхтаваны да надрукавання машынапіс слоўніка і карэктуру. Дапамагалі ёй у гэтым бібліёграф Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна Юлія Восіпаўна Бібіла і дачка Людміла Іванаўна Бялькевіч.

Слоўнік, укладзены Бялькевічам, па першапачатковаму плану Інстытута беларускай культуры і самога выканаўцы, павінен быў адлюстраваць лексіку жывой народнай мовы насельніцтва Калініншчыны, г. зн. былой Калінінскай акругі.

---

8 Беларуская мова (даследаванні па лексікалогіі). Мінск, 1965, стар. 29—32.

9 «Узвышша», 1928, № 5, стар. 191.

10 Нататка падпісана ініцыяламі І. Б. Што яна належыць пяру І. К. Бялькевіча, можна не сумнявацца, бо манера разважання, стыль, характар спасылак на мову старажытных помнікаў і на народныя гаворкі тут такія ж, як і ў іншых яго публікацыях.

11 «Узвышша», 1928, № 2, стар. 204.

Згодна з адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзелам БССР, зацверджаным ЦВК і СНК рэспублікі 2 студзеня 1925 г., Калінінская акруга ахоплівала тэрыторыю памерам у 8371 квадратны кіламетр і падзялялася на 10 раёнаў: Бялынкавіцкі, Касцюковіцкі, Клімавіцкі, Краснапольскі, Крычаўскі, Мсціслаўскі, Мілаславіцкі, Раснянскі, Хоцімскі і Чэрыкаўскі. Лексіка гэтых раёнаў лягла ў аснову дадзенага слоўніка. Для яго былі выкарыстаны слоўныя матэрыялы, сабраныя ў 376 населеных пунктах былой Калінінскай акругі. Па колькасці населеных пунктаў, дзе збіраліся слоўныя матэрыялы, пералічаныя вышэй раёны прадстаўлены ў слоўніку так: Бялынкавіцкі — 7, Касцюковіцкі — 40, Клімавіцкі — 31, Краснапольскі — 66, Крычаўскі — 40, Мілаславіцкі — 14, Мсціслаўскі — 83, Раснянскі — 49, Хоцімскі — 20, Чэрыкаўскі — 24.

У цяперашні час гэтыя населеныя пункты [12] былой Калінінскай акругі аказаліся ў складзе Бялыніцкага, Горацкага, Касцюковіцкага, Клімавіцкага, Краснапольскага, Крычаўскага і Мсціслаўскага раёнаў Магілёўскай вобласці.

У працэсе збору лексічнага матэрыялу Бялькевіч часткова выйшаў за межы былой Калінінскай акругі і нават за межы Беларускай ССР. Ён уключыў у свой слоўнік паасобныя словы, запісаныя ў 7 населеных пунктах былой Магілёўскай акругі (Загораўка, Ляхаўшчына, Петухоўка — цяпер Чавускага раёна Магілёўскай вобласці, Карма, Сычык — цяпер Кармянскага раёна Гомельскай вобласці); у 6 населеных пунктах былой Бабруйскай акругі (Свіслач — цяпер Асіповіцкага раёна Магілёўскай вобласці, Буда-Кашалёўская — цяпер раённы цэнтр Гомельскай вобласці, Гарадзец — цяпер Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці, Стрэшын, Таўстукі, Шапялёва — цяпер Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці); у 2 населеных пунктах былой Аршанскай акругі (Маслакі — цяпер Горацкага раёна Магілёўскай вобласці, Дуброўна — цяпер раённы цэнтр Віцебскай вобласці); у 2 населеных пунктах былой Слуцкай акругі (Рачкавічы — цяпер Слуцкага раёна Мінскай вобласці, Капыль — цяпер раённы цэнтр Мінскай вобласці) [13]; у 13 населеных пунктах РСФСР (Рослаў, Боханы, Лужкі, Цітаўка — цяпер Рослаўскага раёна Смаленскай вобласці, Крывы Лес, Тэпліна, Яўкіна — цяпер Шумяцкага раёна Смаленскай вобласці, Бярозаўка, Латакі, Мікалаеўка — цяпер Кліцоўскага раёна Бранскай вобласці, Дзяніскавічы — цяпер Навазыбкаўскага раёна Бранскай вобласці).

Такім чынам, з 31 населенага пункта, што знаходзіліся па-за межамі былой Калінінскай акругі, 18 беларускія. З іх па сучаснаму адміністрацыйнаму падзелу 7 уваходзяць у склад Магілёўскай, 7 — у склад Гомельскай, 1 — у склад Віцебскай, 2 — у склад Мінскай абласцей. Месцазнаходжанне пераважнай большасці населеных пунктаў, у якіх збіраўся слоўны матэрыял, дае ўсе падставы лічыць, што слоўнік, укладзены Бялькевічам, адлюстроўвае лексіку жывой народнай мовы насельніцтва ўсходняй часткі сучаснай Магілёўскай вобласці, што гэта рэгіянальны слоўнік іменна ўсходняй Магілёўшчыны, а не ўсходняй часткі Беларусі, як першапачаткова лічыў яго сам аўтар.

Слоўнік змяшчае каля 20 000 слоў. Усе яны падаюцца ў алфавітным парадку з захаваннем іх мясцовага вымаўлення і тлумачацца звычайна літаратурным адпаведнікам. Калі ж у беларускай літаратурнай мове адпаведніка няма, то тлумачэнне робіцца апісальна. Растлумачанае такім спосабам значэнне кожнага слова ілюструецца прыкладамі звязнага тэксту — адным або некалькімі сказамі з указаннем населенага пункта, у якім яны запісаны. Акрамя таго, указваецца, якой часцінай мовы слова з'яўляецца. У назоўніках прыводзіцца канчатак роднага склону адзіночнага ліку і абазначаецца род. У рукапісу слоўніка даваліся, хоць і непаслядоўна, таксама канчаткі адзіночнага ліку жаночага і ніякага роду і множнага ліку ў прыметніках, дзеепрыметніках і парадкавых лічэбніках, да назваў раслін і жывёл, калі гэтыя назвы адрозніваюцца ад прынятых у беларускай літаратурнай мове, зрэдку прыводзіліся лацінскія навуковыя тэрміны паводле класіфікацыі Карла Ліннея, пры словах, якія аўтар лічыў запазычанымі, часам змяшчаліся этымалагічныя даведкі або спасылкі на крыніцы запазычання. Пры падрыхтоўцы слоўніка да друку гэтыя сэнсавыя і граматычныя характарыстыкі, як і некаторыя іншыя, па пэўных прычынах былі апушчаны [14].

Паколькі слоўнік Бялькевіча з'яўляецца слоўнікам жывой народнай мовы насельніцтва пералічаных вышэй раёнаў Магілёўскай вобласці, то ў ім знаходзім даволі многа слоў агульнабеларускіх, якія замацаваліся і ў літаратурнай мове на правах нормы, напрыклад: *асіна, госць, граблі, гром, гуляць, два, дзесяць* і інш. Яны абазначаюць прадметы, прыкметы, дзеянні, паняцці і бытуюць у народзе з даўніх часоў.

Сярод агульнабеларускіх слоў у слоўнік уключаны і некаторыя з тых, што ўвайшлі ва ўжытак мясцовага насельніцтва значна пазней. Гэта пераважна словы кніжныя, часта тэрміналагічныя: *гражданін, градуснік, газета, дэманстрацыя, забаставаць, з'езд* і інш.

Для абазначэння аднаго і таго ж паняцця, як сведчыць слоўнік Бялькевіча, у мове насельніцтва Магілёўшчыны часам ужываецца па некалькі слоў-сінонімаў ці нават слоў-дублетаў, з якіх адно агульнанароднае, а іншыя — дыялектныя, напрыклад: *грудзі—пелькі; бусел—бацян; ганчар—гаршкоўнік; абрус—настольнік—абедашнік; чай—гарбата; чарніла—атрамант* і інш. Лексічная сінанімія ў магілёўскіх гаворках наогул вельмі багатая. Вось толькі

---

[12] Некаторыя з іх цяпер маюць іншыя назвы, асобныя ж наогул перасталі існаваць.

[13] Уключэнне ў слоўнік некалькіх слоў са Слуцкай акругі (усяго каля 40) выглядае дзіўным, паколькі Слуцкая акруга знаходзілася вельмі далёка ад былой Калініншчыны.

[14] Гл. аб гэтым у заўвагах «Аб падрыхтоўцы слоўніка да выдання».

некаторыя словы-сінонімы з агульным значэннем «пабіць»: *аббізуніць, абджогаць, адпетаць, адпрудзіць, адпалыхаць, адтузаць, адшпарыць, адшколіць* і інш. Не менш там выразных слоў-характарыстык, якія з'яўляюцца вобразнымі назвамі людзей з пэўнымі адмоўнымі якасцямі: *аскола, атландзір, аторва, болмат, брында, варвус, вірзія, вілігур, ворапень, вушлянок, вырвас, выпуўзык, глыбаед, глума, думар, дурасвет, каруза, ныднік, насупа, паджыгайла, падлётуш, празмуста, пыпла, шкрыда* і інш.

У гаворках Магілёўшчыны бытуе многа дыялектных слоў для абазначэння разнавіднасцей аднаго і таго ж прадмета. Напрыклад, паралельна з агульным словам *калёсы* (або *воз*) ужываюцца яшчэ і такія: *біндзюг, брыка, мажары — калёсы*, прыстасаваныя для перавозкі сена і снапоў; *дрогі* — калёсы з крывулямі, прыстасаваныя для перавозкі бярвенняў. Да агульнага слова *гаршок* ёсць яшчэ *абедашнік* — гаршчок, у якім носяць у поле абед касцу або аратаму; *берасцень* — гаршчок, абцягнуты бяростаю, у якім захоўваюць соль, крупы і іншыя сыпкія прадукты.

Мясцовая лексіка ў слоўніку Бялькевіча асабліва шырока прадстаўлена семантычнымі групамі слоў, якія абазначаюць адзенне і абутак, ежу, прылады і прадметы працы. Да першай групы адносяцца словы тыпу: *аблавух* — шапка з навушнікамі; *ангерка* — кароткая адзежына на ваце; *гасінак — гамаш; гырсайка* — вязаная з воўны хустка; *запан* — фартух; *каверзні* — лапці; *чыравікі* — чаравікі; *нашыйнік* — шалік; *пістон* — конусападобная белая шапка з лямцу; *рызянка* — посцілка, вытканая з рыззя; *хвальбоньніца* — спадніца з хвальбонамі; *чуні* — лапці, сплеценыя з аборак; *суконьнікі* — штаны, пашытыя з сукна; *шунуройка* — кароткая жаночая вопратка без рукавоў; *шырынга* — доўгі кавалак палатна, вышыты на канцах, які ўжываецца замест хусткі. Да другой групы належаць словы тыпу: *зімніца* (і *зімавішча*) — сабранае ўзімку і адтопленае малако; *кандзер* — ячменная ці пшанічная негустая каша; *путра* — пракіслая каша; *цэлкавуха* — яешня, спечаная на скавaрадзе з неразбоўтаных яец; *цяртуха* і *камы* — тоўчаная бульба. Трэцяя група, бадай, самая шматлікая: *вобжы* — аглоблі ў сасе; *глеч* — драўляная палачка для заціравання краёў падэшвы; *гнёт* — бервяно, якім навальваюць лён і каноплі, калі мочаць, каб яны не ўсплылі; *грац, грыца* і *капаніца* — матыка; *здубіны* — здробненая дубовая, лазовая або іншая кара, якая прымяняецца пры вырабе скуры; *чукмар* — вялікі драўляны молат, які ўжываецца пры будоўлі для асаджвання бярвенняў; *шаршатка* — вялікая іголка; *шлыгіна* — абчэсаны кол, загатоўка для полаза і інш.

Сярод дыялектных слоў, змешчаных у слоўніку, вельмі многа трапных і дакладных, якія перадаюць сутнасць або асаблівасці абазначаных прадметаў ці паняццяў: *аддарак* — падарунак, які даецца ў адказ на ўжо атрыманы; *дакучыны* — турботы; *абенаж* — вярхом; *дзяньгуб* — лодыр; *дзяньгубства* — марнаванне часу; *наразлог* — продаж у крэдыт; *разжэн* — разведзены, той, хто скасаваў шлюб; *віляхвост* — падліза і г. д.

Многія словы ў гаворках Магілёўшчыны, акрамя значэнняў, вядомых у агульнанароднай беларускай мове, маюць і свае спецыфічныя значэнні. Напрыклад, *радзіма* — не толькі «свая краіна», але і «радня»; *карагод* — «масавы танец» і «матавіла»; *настольнік* — «абрус» і «чалавек, які кватаруе і харчуецца ў гаспадыні»; *закутаць* — «цёпла адзець» і «зачыніць»; *мішаць*—«перашкаджаць» і «араць другі раз»; *хныкаць* — «плакаць усхліпваючы» і «марудзіць»; *нуда* — не толькі «сум», але і «патрэба» і «млосць».

Некаторыя словы з'яўляюцца цудоўнымі сведкамі мінулага. Так, слова *вуніят* дайшло да нашага часу далёкім успамінам аб здрадзе тых, хто заключыў Брэсцкую ўнію 1596 г., паводле якой праваслаўная царква павінна была падначальвацца каталіцкай, што дапамагала нацыянальнаму і сацыяльнаму прыгнечанню беларускага народа. У слоўніку Бялькевіча і зарэгістравана гэта слова са значэннямі «здраднік», «манюка». З адмоўнымі адносінамі да царкоўнікаў звязана ўжыванне ў магілёўскіх гаворках і лаянкавага слова *бардадым*, якое паходзіць ад назвы каталіцкага манаха *бернардына*.

Дыялектная лексіка Магілёўшчыны, зафіксаваная ў слоўніку Бялькевіча, мае вялікую цікавасць і з пункту погляду яе паходжання. Так, у яе складзе знаходзім словы, якія захавалі свае старажытныя значэнні, у некаторых паўнапраўным жыццём жывуць выйшаўшыя з агульнанароднай мовы словаўтваральныя элементы: *ацец* — бацька; *пазорны* — відны, статны, прыгожы; *вешчуванне* — прадказанне; *міжперсніца* — нарыў паміж пальцамі і інш.

Некаторыя з дыялектных слоў, якія ўзыходзілі да агульнаўсходнеславянскай мовы, у гаворках Магілёўшчыны ўжываюцца з зусім іншымі ці крыху відазмененымі значэннямі. Напрыклад, слова *віра*, якое ў перыяд Кіеўскай Русі абазначала грашовы штраф за забойства вольнага чалавека, на Магілёўшчыне бытуе са значэннем «частаванне, якое наладжвае хлопец сваім старэйшым таварышам, дасягнуўшы сталага ўзросту»; слова *прытча*, якое першапачаткова ва ўсіх славянскіх мовах і ў сучасных усходнеславянскіх літаратурных мовах азначае «іншасказальны расказ павучальнага характару», на Магілёўшчыне вядома са значэннем «нечаканая хвароба, бяда».

Слоўнік Бялькевіча дае багаты матэрыял па праблеме ўзаемасувязей беларускай мовы з іншымі славянскімі і неславянскімі мовамі. Так, у ім знаходзім многа слоў агульнаславянскага паходжання або ўласна рускіх, якія не замацаваліся ў беларускай літаратурнай мове, а ў вусным ужытку насельніцтва Магілёўшчыны бытуюць як вынік уплыву рускай мовы: *абразовынасць, абіда, аблукавіць, адчызна, ветка, вожжы, воздух, гроб, грыза, дзвінуцца, кадка, какошнік, парань, пастроіць, плясун, прыдсідаціль, пярэднік, хазяйка* і інш. У слоўніку зафіксаваны словы польскія, а

таксама лацінскія і нямецкія, якія трапілі ў беларускую мову праз пасрэдніцтва польскай і не сталі літаратурнай нормай: *амбарас* — турбота, клопат; *аўстэрыя*—заезджы двор, карчма са стадолай; *ванзэлык* — невялікі пакунак, завязаны ў хусціну; *гавэнды* — пустыя размовы, адсюль *гавэндзіць* — траціць марна час; *гарбата*—чай; *злашча*— тым больш, добра, калі; *злічны* — прыгожы; *імбрычык* — чайнік; *імпэт* — імкненне, жаданне; *інвэнцыя* — імкненне што-небудзь зрабіць, звычайна дрэннае; *плейтух* — неахайны чалавек; *пушка* — скрыначка для рознай дробязі і г. д. Зрэдку сустракаюцца словы ўкраінскія (*гарна*—добра, *бажаць* — хацець, *бажанне* — хаценне), яўрэйскія, звычайна з адмоўным стылістычным адценнем (*агундар* — сабачы сын, *ваздахтар* — палюбоўнік, каханак) і некаторыя іншыя.

Вялікую цікавасць мае слоўнік Бялькевіча і з пункту погляду словаўтварэння. Так, вельмі пашыраны тут дзеясловы, утвораныя ад назоўнікаў пры дапамозе прыстаўкі і суфікса або нават пры дапамозе толькі суфікса. Такія дзеясловы абазначаюць канкрэтныя дзеянні, якія выконваюцца пры пасрэдніцтве названага назоўнікам прадмета або ў працэсе якога ўзнікае гэты прадмет. Такім дзеясловам у беларускай літаратурнай мове часта адпавядаюць не асобныя словы, а цэлыя выразы: *аббізуніць* — пабіць бізуном; *аввапніць* — пабяліць вапнаю; *абквеціць* — упрыгожыць кветкамі; *абмішэніцца* — не папасці ў мішэнь, прамахнуцца; *абначыцца* — заначавацъ; *абножыцца* — натаміць ногі; *абпеніць* — загнаць каня да пены; *абхарчыцца* — застацца без харчоў; *абхварасціць* — пабіць хварасцінаю; *атскрыліць* — адрэзаць скрыль чаго-небудзь; *атыніць*—абгарадзіць тынам; *матузіць* — біць матузом; *фуганіць*— габляваць фуганкам; *шапкаваць* — знімаць перад кім-небудзь шапку.

Шмат у слоўніку мясцовых магілёўскіх слоў, утвораных спосабам нехарактэрнага для беларускай літаратурнай мовы спалучэння агульнабеларускіх суфіксаў з асновамі агульнабеларускіх слоў: *аббійкі* — каласы, што засталіся пасля малацьбы; *аббіцік* — гаршчок ці збан з абабітымі берагамі; *абкопкі* — канец капання бульбы; *абсейкі* — канец сяўбы і рэшткі зерня пасля сяўбы; *аборак* — неўзараная лагчына сярод раллі; *аппарак* — венік, апараны гарачаю вадою; *асуднік* — чалавек, які любіць асуджаць; *важыйшчык* — той, хто ўзважвае; *вазак, вазец*—той, хто перавозіць цяжкія рэчы; *вознік* — рамізнік; *выжыйня*— месца, дзе ўзважваюць; *надпісык* — адрас на пісьме; *гаснік* — газоўка або лямпа без шкла; *хадыль*—палка, на якую абапіраюцца пры хадзьбе бязногія або старыя; *хоўка* — месца, дзе што-небудзь схавана; *усыпішча* — месца, куды ссыпаюць зерне; *шчапішча* — месца, дзе колюць дровы (ад *шчапаць*) і інш.

Падобныя ўтварэнні знаходзім і ад асноў іншых часцін мовы: *аблетак* — гадавалы бычок, *атзімак* — пярэзімак, *аўчыннік* — майстар па вырабу аўчын (ад назоўнікаў); *ветраннік* — флюгер, *раннік* — ранкавы мароз вясною (ад прыметнікаў); *чатырка* — чатыры сажні дроў, *пятуха* — пяць сажняў дроў (ад лічэбнікаў).

Цікавыя па ўтварэнню і такія словы: *дзеньудзенны* — штодзённы (прыметнік ад прыслоўнага словазлучэння); *двадзеннік*— бочачка з двума днамі (назоўнік ад колькасна-іменнага словазлучэння); *двухтрысценны* — разделены на дзве палавіны (прыметнік ад колькасна-іменнага словазлучэння).

Даволі пашыраны ў гаворках Магілёўшчыны, як сведчыць слоўнік Бялькевіча, з'яўляецца безафіксны спосаб утварэння назоўнікаў ад дзеясловаў: *абдур* — падман (ад *абдурыць*); *абмах* — хіба, памылка (ад *абмахнуцца*); *абмін* — абход ці аб'езд (ад *абмінаць*); *адскок* — рыкашэт (ад *адскокваць*); *азел* — марока, падман (ад *азеліць* — абмануць); *атклон* — паварот, ухіл (ад *атклаияцца*); *ахран* — варта (ад *ахраняць*); *бава* — працяглая гутарка (ад *бавіць*); *балабон* — званок і чалавек, які лішняе гаворыць (ад *балабоніць*); *выжын* — выжатае месца на ніве (ад *выжынаць*); *вымудры* — мудрагельства (ад *вымудраць*); *выпыт* — выпытванне (ад *выпытваць*); *здавол* — задавальненне (ад *здаволіцца*); *запан* — фартух (ад *запнуць*); *навея* — гурба снегу (ад *навеяць*); *намул* — намуленае месца ад цеснага абутку (ад *намуляць*); *натып* — конскі след (ад *натаптаць*); *паддур* — падман (ад *паддурыць*); *прісіл* — гвалт (ад *прысіліць*); *прысос* — нізкае вільготнае месца з глейкаю зямлёю (ад *прысасаць*); *рэзь* — дробна нарэзаная на корм салома (ад *рэзаць*); *усід* — здольнасць на доўгі час паглыбляцца ў сваю працу (ад *усідзець*); *шкраб* — месца, пашкрабанае сабакам (ад *шкрабаць*) і г. д.

У магілёўскіх гаворках адзначаны разнастайныя формы слоў, якія звязаны з выражэннем суб'ектыўнай ацэнкі і памяншальнасці: *дзіця, дзіцяня, дзіцятка, дзіцёнак, дзіцінёнак, дзіцятычка, дзіцятухна; нікога, нікагенька, нікоганькі, нікагесенька; цяпер, цяпера, цяперака, цяперыцька; тут, тута, тутацька.*

Вялікае слоўнае багацце сабрана Бялькевічам. Праўда, з пункту погляду сучаснай лексікаграфічнай тэорыі і практыкі ў гэтым слоўніку ёсць пралікі. Так, наўрад ці можна пагадзіцца з тым, што аўтар у якасці загалоўных дае ўсе фанетычныя варыянты слоў, паасобку тлумачачы і ілюструючы іх прыкладамі звязнага тэксту, бо гэта прыводзіць да непатрэбных паўтораў. Напрыклад, асобнымі артыкуламі падаюцца такія фанетычныя варыянты, як *дзесіць* і *дзесяць, дзераза* і *дзеріза, дрэва* і *древа, засек* і *засік, заткала* і *заткыла* і інш. Слову *жалезняк* (рыдлёўка) у слоўніку прысвечана ажно пяць асобных артыкулаў: *жылізняк, жэлезняк, зілізняк, зілязнік, зялезнік.* Непаслядоўна вытрыманы і фанетычны прынцып напісання слоў. Гэта перш за ўсё датычыцца перадачы дысімілятыўнага акання і якання, мяккага і цвёрдага вымаўлення некаторых зычных гукаў. У радзе выпадкаў назвы птушак або раслін тлумачацца вельмі агульна, без суаднясення іх з адпаведнымі беларускімі літаратурнымі тэрмінамі,

што не дае чытачу мажлівасці зразумець, аб кім ці аб чым вядзецца размова: *вілінок* — птушка велічынёй з жаваранка; *вітадол* — балотная птушка; *іўчык* — птушка якойсьці пароды.

Прыдзірлівы сучасны крытык можа знайсці ў слоўніку і іншыя недахопы.

Аднак можна не сумнявацца, што гэты слоўнік, з'яўляючыся цікавай лексікаграфічнай працай, прынясе вялікую карысць навуковаму супрацоўніку, пісьменніку, настаўніку, студэнту — усім, хто цікавіцца жывой беларускай мовай.

*І. К. ГЕРМАНОВІЧ,*

*Б. С. ЛАПАЎ*

## АБ ПАДРЫХТОЎЦЫ СЛОЎНІКА ДА ВЫДАННЯ

§ 1. Слоўнік І. К. Бялькевіча змяшчае лексіку і ілюстрацыйны матэрыял, сабраны аўтарам ва ўсходніх раёнах Магілёўскай вобласці ў 1925—1930 гг. Складзены ён у адпаведнасці з задачамі і прынцыпамі беларускай дыялектнай лексікаграфіі таго часу і з'яўляецца адным з яе здабыткаў. Таму выпускаецца ў свет слоўнік такім, якім яго завяршыў укладальнік. Толькі ў мэтах скарачэння аб'ёму працы выключаны пры рэдагаванні артыкулы пра словы некаторых груп. Іх дастаткова будзе тут пералічыць і даць агульныя тлумачэнні. Да ліку гэтых груп адносяцца:

а) словы з адмоўем *не*(*ня, ні*), калі яны разам з адмоўем не маюць цэласнага лексіка-граматычнага значэння, не з'яўляюцца тэрмінамі і ёсць у рэестры слоўніка без адмоўя: *невялікій, недалёка, нешчасьлівый, нівідўшчый, ніглáўный, нідавóльный, ніжывый, нізавідлівый, нізвáжыць, нінáда, нявідна, нясвóй* і г. д.;

б) прыметнікі, утвораныя пры дапамозе суфікса *-еньк-(-іньк-)* ад асноў якасных прыметнікаў: *маладзéнькій, мáлінькій, малінывінькій, мілінькій, сінінькій* і г. д. Яны адпавядаюць па значэнню прыметнікам, ад якіх утвораны, маючы толькі дадаткова ласкальна-памяншальнае адценне, і магчымы ў мясцовай мове ад любога прыметніка.

в) прыслоўі, утвораныя ад прыметнікаў з суфіксам *-еньк-(-іньк-)*: *рóўнінька, скóрінька, пóзьнінька, бéлінька, слáбінька, нізінька, блізінька* і г. д.;

г) прыметнікі і прыслоўі ў форме вышэйшай ступені параўнання: *лягчэ́йшый* і *лягчэ́й, цяплéйшый* і *цяплéй, бялéйшый* і *бялéй, мудрэ́йшый* і *мудрэ́й* і г. д. Пакінуты ў рэестры толькі формы, спецыфічныя па ўтварэнню, тыпу: *лéпшый* і *лепш; мéншый* і *менш, мéншы, мéні, мéній; бóльшый* і *больш, бóльшы, бóлі; шырший* і *шыршы, шыры* і г. д.;

д) якасныя прыметнікі ў іменнай (выказнікавай) форме. Ілюстрацыі да іх змешчаны ў артыкулах пра поўныя формы. У мясцовай мове іменныя формы якасных прыметнікаў вельмі пашыраны. Утвараюцца ад любога якаснага прыметніка, напрыклад: *нóвый* — м. адз. *ноў*, ж. адз. *нóва*, н. адз. *нóва*, мн. *нóвы; маладый* — адпаведна *мóлад, мóлада, мóлада, мóлады; халóдный — халóдзен, халóдна, халóдна, халóдны; мóкрый — мóкар* або *мóкер, мóкра, мóкра, мóкры; бéлый — бел, бéла, бéла, бéлы* і г. д.;

е) нецэнзурныя словы.

Акрамя таго, аб'яднаны артыкулы пра варыянты аднаго і таго ж слова, калі яны знаходзяцца ў алфавіце побач і не адрозніваюцца па значэнню. У аб'яднаным артыкуле падаюцца ілюстрацыі да ўсіх варыянтаў, а яны выносяцца ў загаловак і аддзяляюцца адзін ад аднаго коскай (параўн. § 2б).

§ 2. Рэдактарскія дадаткі ў слоўніку наступныя:

а) пасля ўстарэлых і неўжывальных зараз слоў і тэрмінаў, якія трапляюцца ў аўтарскіх тлумачэннях, даюцца сучасныя моўныя адпаведнікі да іх;

б) у артыкулах пра дзеясловы на *-сьці*, *-чы* тыпу *нéсьці, сéсьці, пячы, сьцерагчы* ўнесены ў загаловак варыянты без канцавога галоснага (тыпу *несьць, сесьць, печ, сьцярэ́жч*), якія з'яўляюцца больш характэрнымі для мясцовых гаворак, чым папярэднія, але ў рэестры амаль не сустракаюцца;

в) пасля яўна недакладных або недастатковых аўтарскіх тлумачэнняў значэння слоў змешчаны заўвагі аб іх значэнні ад рэдактараў (гаворка паўночнай часткі Мсціслаўскага раёна родная аднаму з нас).

г) у пачатку тлумачэнняў даецца іншы раз арфаграфічнае напісанне загаловачнага слова або блізкі па ўтварэнню і значэнню да яго адпаведнік з літаратурнай мовы, калі фанематычная структура слова зацямняецца яго мясцовым фанетычным абліччам (параўн.: *скóма* — аскома, *скрю́тык* — скрутак, *пупсувáць* — папсаваць, *ныікытáцца* — наенчыцца, *ідá* — яда, *ныскувáць* — нацкаваць і г. д.).

Рэдактарскія дадаткі змешчаны ў квадратных дужках.

§ 3. Апушчаны ў тлумачальнай частцы слоўнікавых артыкулаў:

а) даведкі аб паходжанні пры тлумачэннях некаторых запазычаных слоў;

б) лацінскія адпаведнікі, дадзеныя аўтарам у паасобных выпадках да мясцовых назваў раслін і жывёлін;

в) апісанні прадметаў і з'яў (за выключэннем тых выпадкаў, калі рэаліі з'яўляюцца спецыфічна мясцовымі і малавядомымі);

г) дадатковыя несістэматычныя адсылкі адных слоў да другіх, заўвагі, якія не маюць адносін да значэння слоў, і іншыя дробязі.

Калі ў слоўнікавым артыкуле замест тлумачэння мелася толькі адсылка да іншага артыкула, яна заменена аўтарскім тлумачэннем таго слова, да якога ён адсылаў.

§ 4. Пры падрыхтоўцы слоўніка да выдання ілюстрацыі і іх пашпартызацыя зверaны з картатэкай аўтара. Некаторыя лішнія, невыразныя і яўна недакладныя ў адносінах да мясцовай мовы прыклады апушчаны.

§ 5. У некаторых ілюстрацыях, на думку рэдактараў, не зусім дакладна перадаецца фанетычны бок паасобных слоў. Напрыклад, мяккія *д, т* замест мяккіх *дз, ц;* цвёрдае *р* замест мяккага *р* у мяккаэрых гаворках і некаторыя іншыя. Аднак уносіць якія-небудзь папраўкі рэдактары лічылі сябе неправамоцнымі.

Назвы вёсак даюцца паводле аўтарскага тэксту.

§ 6. Назва працы Бялькевіча «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны» (у рукапісу — «Дыялекталагічны слоўнік усходняй часткі Беларускай ССР») з'яўляецца часткова ўдакладненай першапачатковай назвай яе «Краёвы слоўнік Калінінычыны». Адначасова такая назва ўказвае на цесную сувязь гэтага слоўніка з вядомымі беларускімі дыялектнымі зборамі лексікі 20-х гадоў («Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны» М. В. Шатэрніка, «Віцебскі краёвы слоўнік» М. І. Каспяровіча).

*М. В. БІРЫЛА, А. А. КРЫВІЦКІ*

## УМОУНЫЯ СКАРАЧЭННІ

*бат.*— батанічнае, назва расліны
*выкл.*— выклічнік
*дзеясл.*— дзеяслоў
*дзеясл. безас.*— безасабовы дзеяслоў
*ж.*— назоўнік жаночага роду
*заал.*— заалагічнае, назва жывёлы
*займ.*— займеннік
*зборн.*— зборны назоўнік
*злучн.*— злучнік
*З нар. песні* — з народнай песні
*ліч.*— колькасны лічэбнік
*м.*— назоўнік мужчынскага роду
М. Г.— М. Гарэцкі і А. Ягораў. Народныя песні з мелодыямі. Мінск, 1928 і [адпаведная старонка]
*мн. л.*— назоўнік множнага ліку
*н.*— назоўнік ніякага роду
*павеліч.*— павелічальная форма
*памянш.*— памяншальная форма
*перан.*— пераноснае значэнне
*прык.*— прыказка
*прым.*— прыметнік або дзеепрыметнік ці парадкавы лічэбнік
*прыназ.*— прыназоўнік
*прысл.*— прыслоўе
*часц.*— часціца

## РАЁНЫ

Арш.— Аршанскі
Бабр.— Бабруйскі
Быхаў.— Быхаўскі
Бялынкав.— Бялынкавіцкі
Дрыбін.— Дрыбінскі
Жлоб.— Жлобінскі
Касцюк.— Касцюковіцкі
Клім.— Клімавіцкі
Клінц.— Клінцоўскі
Краснап.— Краснапольскі
Крыч.— Крычаўскі
Міласл.— Мілаславіцкі
Мсцісл.— Мсціслаўскі
Навазыбк.— Навазыбкаўскі
Раснян.— Раснянскі
Росл.— Рослаўскі
Смал.— Смаленскі
Стрэш.— Стрэшынскі
Хоцім.— Хоцімскі
Чав.— Чавускі
Чэрык.— Чэрыкаўскі
Шумяц.— Шумяцкі

# А

А, *злуч.* А. *Ты йдзі ў кіпірацію, а я пынясу пісьмо на пошту.* Мсціслаў. *Я толькі прышоў, а ты ўжо й тут.* Гарадок Раснян.

А, *выкл.* А. *А, якей жа цікаўны гузік, я такога й ні бачыў.* Буліна Касцюк. *Аа! Вось як яно робіцца!* Шыркі Раснян. *А-а, так вось якей ты дабродзі!?* Жалезніца Крыч. *Аа? Што ты казаў?* Васілеўка Хоцім. *А-а, а-а, дзіця, спаць! А-а, а-а, малое!* Сапрынавічы Мсцісл.

АБ, *прыназ.* Аб. *Аб здаровым і крэпкім чалавеку кажуць: «Ета камёлык, а ня чалавек».* Гібалы Касцюк. *Сыбраліся бабы, дык аб усім пірігуварілі, і аб табе ўспомнілі.* Журбін Бялынкав. *Я аб цьвік пырваў штаны.* Тур'я Чэрык. *Ныляцелі гусі ‖А с чужыя Русі; ‖Сталі яны ды ваду піці, ‖Аб лёд крыльлямі біці.* З нар. песні, М. Г. 43.

АБА, *прыназ.* Аб. *Аба мне ты не турбуйся, я сам аб сабе дбаю.* Слабада Раснян.

АБА́БАК, -бка, *м.* 1. *бат.* Грыб бярозавік [падбярозавік]. *У нашым бярэзьніку сёлета многа абабак.* Пірагова Мсцісл. 2. Бабка [мэндлік]. *Пыстаў снапы ў абабак ды пакрый.* Робцы Раснян.

АБА́БІЦЦА, *дзеясл.* 1. Аба́біцца, стаць падобным да бабы. *Сямён наш ababіўся — зусім бабый стаў.* Шыркі Раснян. 2. Ажаніцца. *Як быў холыст, усюдых бываў, а як абабіўся, дык сядзіць кыла жонкі і ні вылазіць з хаты.* Слаўнае Мсцісл.

АБАБІЦЦА, *дзеясл.* Абабіцца. *Абабіўся мой гладышак саўсім.* Затоны Раснян.

АБАБІЦЬ, *дзеясл.* 1. Абабі́ць. *Нада войлыкам абабіць у хаце дзверы, штоб цяплей было.* Лабаноўка Клім. 2. Збіць з дзерава плод. *Вазьмі етый скабёлык ды абабі грушу.* Бяседавічы Хоцім.

АБА́БКА, -і, *ж.* Абадраны ліпавы або вязавы пень, на якім яшчэ расце суччa. *Ны абабцы атрезый сук.* Брылёўка Краснап.

АБА́БЫК, -бка, *м.* 1. Абабак [падбярозавік]. *Глядзі, якей мыладзенькі абабык кыля дарогі пыд бярозый.* Сохана Мсцісл. *Абабкі растуць пу бярозьніку.* Бяседавічы Хоцім. 2. [мэндлік]. *Пыстаў снапы ў абабык.* Сапрынавічы Мсцісл. *Я сяньні ныжала дзесіць абабкаў жыта.* Бяседавічы Хоцім. *Мы пыставілі жыта ў абабкі і накрылі, ні зыцякуць.* Арцёмаўка Міласл.

АБАБЫЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад абабак. *Лянь-ка ты, ікея мыладэя абабычкі, толькі зь зямлі вылізьлі.* Зарэчча Мсцісл.

АБАВІЦЦА, *дзеясл.* Абавіцца, абвіцца. *Хмель абавіўся кыла 'решыны.* Палуж Краснап.

АБАГНУ́ТЫЙ, *прым.* Абагнуты, сагнуты наўкол чаго-небудзь. *У тваім касьсі пупок абагнутый, а ў маім удоўбінэй у касьсё.* Бязводзічы Мсцісл.

АБАГНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Абагнуць. *Рыспар еты яленіц ды абагні кыла пінька, дык палка будзіць, як засохніць так.* Робцы Раснян.

АБАГРЭ́ЦЦА, *дзеясл.* Абагрэцца. *Абагрэйся кыла 'гню, ато зьмерз мусіць.* Шавялёўшчына Мсцісл. *Дазвольце кыла 'гню 'багрэцца.* Затопы Раснян.

АБАГРЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Абагрэць. *Абагрэй рукі трохі, ато як кычарэжкі.* Янаўка Мсцісл. *Абагрэў рукі лі агню, дык стала цяплей.* Навасёлкі Мсцісл. *А ты, сонійка, а ты жаркія, ‖ Абагрэй ты мяне.* З нар. песні, М. Г. 88.

АБАГУ́ЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Абагульваць. *Пычалі ўсё абагулівыць, дык дужа мала прышлося ны нашу долю.* Будагошч Мсцісл.

АБАГУ́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Абагуліць, рабіць маёмасць агульнай. *У кылгасых усё абагулілі, усё агульнае.* Палуж Краснап.

АБАДРА́НЕЦ, -нца, *м.* Абадранец, чалавек у падраным адзенні (вопратцы). *Ішоў я ўчора бальшаком і сустрэў нейкага абадранца.* Пірагова Мсцісл.

АБАЙЦІ́, *дзеясл.* Абысці. *Калі ты такей сьмелы, дык схадзі ўночы на кладаўё і абайдзі яго тры разы.* Шапілава Жлоб.

АБАЙЦІ́СЯ, *дзеясл.* Абысціся. *Нільзя й бяз етыга абайціся, усё нада ў хыдзяйстві.* Белы Камень Бялынкав. *Бяз віры, брат, не абойдзешся: у хлопцы ня прымем.* Мікалаеўка Клінц.

АБАКУ́ЛІВАЦЬ, *дзеясл.* Абакульваць, ашукваць [падманваць]. *За кожным разым ён мяне абакулівыиць.* Сапрынавічы Мсцісл. *Дзе ты наўчыўся так абакулівыць?* Журбін Бялынкав.

АБАКУ́ЛІЦЦА, *дзеясл.* Абакуліцца, ашукацца, памыліцца. *Абакуліўся я — рана аддаў табе дзьве шашкі і дамкі ні зьдзелыў.* Сапрынавічы Мсцісл.

АБАКУ́ЛЬНІК, -а, *м.* Ашуканец. *Ня йдзі к Янкілю ў краму — ён абакульнік.* Клімавічы. *Абакульнік ты, ні паверу я табе большы.* Сапрынавічы Мсцісл.

АБАЛО́НКА, -і, *ж.* Абалона. *Якая тоўстая абалонка ў етым дубі.* Хвёдараўка Краснап.

АБАЛО́НЬ, -і, *ж.* Абалона, верхнія слаі драўніны з жывымі яшчэ каморкамі [клеткамі]. *Етыя сысна на вокны ні гадзіцца: абалонь дужа тоўстыя.* Мсціслаў.

АБАНКРУ́ЦІЦЦА, *дзеясл.* Збанкрутаваць [абанкроціцца], пацярпець страты, збяднець. *Мельнік наш абанкруціўся і пруд свой прыдаў.* Мазалава Мсцісл.

АБАНКРУ́ЦІЦЬ, *дзеясл.* Увесці ў страту [абанкроціць]. *Абанкруціў ён Мыкара: ні 'ддаў яму пылавіну грошы зы карову.* Пірагова Мсцісл.

АБАПЕ́РЦІСЯ, *дзеясл.* Абаперціся. *Тут нялоўка сядзець, німа аб што абаперціся сьпінаю.* Арцёмаўка Міласл.

АБАПО́ЛЬНА, *прысл.* Супольна, разам з кім-небудзь. *Сіныжаць скасілі абапольна, а потым дзялілі сена.* Пірагова Мсцісл.

АБАПО́ЛЬНЫЙ, *прым.* Супольны, агульны. *Млын гэты — іх абапольны: разам дзіржаць.* Жараціно Мсцісл. *Ета поля абапольныя ўсёй дзярэўні, а сеіць яго, хто купіць.* Гібалы Касцюк.

АБА́ПЫЛ, -а, *м.* Аполак, крайняя дошка з бервяна, абапал. *Цяперыка будзем аткалываць абапылы.* Хвёдараўка Краснап.

АБА́ПЫЛ, *прыназ.* Абапал, з абодвух бакоў. *Абапыл дарогі растуць бярозы.* Смолькаўская Буда Бялынкав. *Абапыл яе сядзелі два прыгожыя хлопцы.* Пірагова Мсцісл.

АБА́ПЫЛАК, -лка, *м.* Абапалак, акравак, абрэзак бервяна пры распіле яго на дошкі. *Абапылак роўніінькі, куды хош гадзіцца, за дошку сайдзець.* Мсціслаў.

АБАРО́НА, -ы, *ж.* Абарона. *Дзед ходзіць з кіім для абароны ат сыбак.* Сохана Мсцісл. *Дзе шукаць абароны ў етым дзеле?* Глінь Касцюк.

АБАРО́НІЦ, -нца, *м.* Абаронец, адвакат. *Добры абароніц будзя сы Сьціпана, глядзі, як гаворыць!* Дзіснакіта Мсцісл. *Нашоў сабе добрыга абаронца, дык і лёгка апрыўдаўся.* Сохана Мсцісл. *А ты што мішаішся? Абароніц якей знайшоўсь.* Палуж Краснап.

АБАРО́НЦА, -а, *м.* Абаронец, заступнік, той, хто абараняе. *Во хто мой верны абаронца: кій гэтый сукыватый.* Пірагова Мсцісл.

АБАРО́НШЧЫК, -а, *м.* 1. Вартаўнік, пастух. *Піліп ныняў абароншчыкам Ігната, абырыняць коній.* Дзіснакіта Мсцісл. 2. Абаронец. *Ні нада мне абароншчыкаў, я зь ім і сам спраўлюсь.* Б. Хутары Краснап.

АБАРЫЧА́ЦЦА, *дзеясл.* Абарачацца, аглядацца назад. *Калі мой брат уяжджаў, ён некылькі разоў абарычаўсь і мыхаў шапкуй.* Пірагова Мсцісл.

АБАРЫЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Абарочваць, перакульваць. *Вецір найшоў і дывай абарычаць снапы.* Затоны Раснян. *Спробваў хлапчук абарычаць воз, ажно сілы ні хапіла.* Юшкі Мсцісл.

АБАСУРМА́НІВЫЦЬ, *дзеясл.* Абасурманіваць, прымушаць скароміцца ў пост. *Самі пастоў ні глядзіцё і другіх абасурманівыць пычалі.* Журбін Бялынкав.

АБАСУРМА́НІЦЬ, *дзеясл.* Абасурманіць, зрабіць бязбожнікам. *Ты ўжо хочыш мяне саўсім абасурманіць, каб я дайжа ў царкву ні хадзіў.* Пірагова Мсцісл. *Абасурманілі вы мяне: у мяне ж пост, а вы скаромным пыкармілі.* Слабада Раснян.

АБА́ЧНЫЙ, *прым.* Відны [бачны]. *Дом, што абачны ны гарэ, быў раньшы панскій.* Дзіснакіта Мсцісл.

АБА́Я, *ліч.* Абодва. *Абая вы хырашы хлопцы.* Гарбавічы Касцюк.

АББЕ́ГЦА, *дзеясл.* Аббегчыся, задыхацца бегучы. *Я аббегся — дыхаць цяжка.* Хвёдараўка Краснап.

АББІЗУ́НЕНЫЙ, *прым.* Біты бізуном, высцебаны. *Ня быў ты йшчэ аббізунены, то будзеш, калі не пакінеш свае прывычкі.* Ганнаўка Клім.

АББІЗУ́НІЦЬ, *дзеясл.* Пабіць бізуном, высцебаць. *Зыхапіў я ў садзе Лукашовых хлопцаў і добра аббізуніў абодвых.* Касцюшкавічы Крыч.

АББІРА́ЦЬ, *дзеясл.* Рабаваць, абкрадваць, забіраць сілаю. *Аббіралі сілянства раней паны.* Пірагова Мсцісл. *У етым лесі бандзіты аббіраць пычалі: надоічы Еску абыбралі.* Цёмны Лес Раснян.

АББІ́УКІ, -івак, *мн. л.* Каласкі, што застаюцца пасля малацьбы. *Уся мылыцьба была скончына досьвітку, зысталіся ны таку адны аббіўкі. Засып конім аббівык, ніхай зьядуць.* Пірагова Мсцісл.

АББІ́ЦІК, -а, *м.* Гаршчок ці жбан [збанок] з пабітымі вянцамі [берагамі]. *Вазьмі аббіцік ды насып у яго пяску з дарогі, пайдзём касіць, а вады там у речкі ныбярэш.* Каменка Раснян.

АББО́РЫШ, -а, *м.* Пласт сена [перабраны граблямі], пярэчышак. *На лугу сена ў абборышах зысталося, нада яго ці прывезьці ў пуню, ці ў копы пакласьць.* Журбін Бялынкав.

АББРЕ́ХІВЫЦЬ, *дзеясл.* Аббрэхваць, абгаворваць. *Ты толькі й можаш, што людзей аббрехіваць.* Пірагова Мсцісл.

АББРЕ́ХЫНЫЙ, *прым.* Аббрэханы, абгавораны. *Ён ужо аббрехынэй з усіх бакоў, німыйдама што пры яго гаворуць.* Пірагова Мсцісл.

АББРІХА́ЛА, -а, *м.* і *ж.* Аббрахала, абгаворнік, абгаворніца. *К ёй лепш ня йдзі: тыкая ўжо аббріхала, што сто разоў прыклянеш, зачым хадзіў.* Юшкі Мсцісл. *Такій ўжо аббріхала етый Хведыр — усіх аббрешыць, як баба йкая.* Каменка Раснян.

АББРІХА́ЦЬ, *дзеясл.* Аббрахаць, нагаварыць няпраўды. *Аббріхалі злэя людзі дзеўку, а іна, як піряд богым, чыста.* Палуж Краснап.

АББРУ́ІЦЦА, *дзеясл.* Абмачыцца. *Аббруіўсь дзіцёнык пы самыя рукі і ляжыць мокрэй.* Пірагова Мсцісл.

АББРУ́ІЦЬ, *дзеясл.* Абмачыць. *Узіла яго на рукі, а ён мяне ўсю аббруіў, а што ж ты надзелыў, га?* Немерка Раснян.

АББРЫ́СКАНЫЙ, *прым.* Аббрызканы, апырсканы, пакрыты пырскамі. *Дрэвы, аббрысканыя дожджам, блішчаць на сонцы.* Ушакі Чэрык.

АББРЫ́СКАЦЬ, *дзеясл.* Аббрызкаць, апырскаць, заляпаць гразёй ці вадою. *Як шурнуў ён камнім у лужу — аббрыскаў мяне ўсю!* Пірагова Мсцісл.

АББРЫХА́ЦЬ, *дзеясл.* Аббрахаць, абгаварыць. *Аббрыхалі злэя людзі дзеўку, а яна, як піряд богым, чыста.* Дзіснакіта Мсцісл.

АББЫЛВА́НІЦЬ, *дзеясл.* Аббалваніць, астрыгчы машынкай нізка. *Зашоў я ў цырульню, дык там мяне аббылванілі — як тыўкач зрабіўся!* Пірагова Мсцісл.

АББА́ЖВАНЬНЕ, -я, *н.* Абважванне, няправільнае ўзважванне. *Глядзі ты за ім, ато ў яго пыстыянны абмер і абважваньне — жулік ён.* Затоны Раснян.

АББА́ЖЫНЫЙ, *прым.* Абважаны, ашуканы ў вазе. *Калі ўжо быў раз абважыный, то боляй ня пойдзеш к яму ў краму.* Пірагова Мсцісл.

АББА́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Абважыць, ашукаць у вазе, няправільна зважыць. *Абважыў мяне Лейзар, там было ня менш, як два пуды грачыхі.* Пірагова Мсцісл.

АБВАЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Абваліцца. *Ні танцуйця на печы, ато чалесьнік абваліцца.* Бяседавічы Хоцім. *Шчыкатурка са сьцен уся абвалілася.* Мсціслаў.

АБВАЛЫ́НДЫЦЦА, *дзеясл.* 1. Абнасіцца ў адзежы [адзеннем].*Абвалындыліся бедныя — адны транты быўтаюцца.* Пірагова Мсцісл. 2. [Абкачацца ў гразь].

АБВАНДРО́ВАНЫЙ, *прым.* Абвандрованы. *Мною ўся Расея абвандровына — дзе толькі я ня быў?* Гарадок Мсцісл.

АБВАНДРЫВАЦЬ, *дзеясл.* Абвандравацць, абхадзіць. *Увесь лес абвандрываў, кыня шукаючы.* Зарубец Крыч. *Іна пакуль усю дзярэўню ні абвандруіць, дык у печы тапіць ня будзіць, во пошта!* Гарбавічы Касцюк.

АБВА́РЫНЫЙ, *прым.* Абвараны [апараны варам]. *Абварыныя храп'я сьвіньні лучшы ядуць.* Маркаўка Хоцім.

АБВАРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Абварыць, апарыць [варам]. *Хлопчык абварыў руку.* Пацкава Мсцісл. *Вой, руку абварыла! Палянь, як скора бурболкі паўсхапіліcь.* Ушакі Чэрык.

АБВЕ́ДЗЕНЫЙ, *прым.* Абгароджаны. *Мост абведзены калючым дротам.* Барысавічы Клім.

АБВЕ́СІЦЬ, *дзеясл.* Абвесіць, завесіць з усіх бакоў. *Абвесь люльку полыгым, каб мухі ня лезьлі.* Хвёдараўка Краснап.

АБВЕ́СТКА, -і, *ж.* Абвестка [апавяшчэнне], аб'ява. *У сельсавет прышла абвестка аб здачы прыдналогу.* Гусарка Клім.

АБВЕ́СЬЦІ, *дзеясл.* Абвесці, абгарадзіць. *Пііп свой сад увесь кынавую абвёў.* Касперка Міласл. *Абвядзі рыскай, а потым выраж.* Мсціслаў.

АБВІВА́НЬНЯ, -я, *н.* Абвіванне, абвінанне. *Нада ўжо абвіваньня яблынь здзгелыць — зіма ныступаіць.* Б. Хутары Краснап.

АБВІЗА́ЦЦА, *дзеясл.* Абвязацца, захутацца, абвінуцца. *Нада пыцяплей абвізацца, ато халодныя надворья.* Бяседавічы Хоцім.

АБВІНА́НЬНЯ, -я, *н.* Абвінанне, захутванне. *Прыйдзі сяньні ка мне і зрабі абвінаньне мыладых дрэў на зіму.* Нашкавічы Мсцісл.

АБВІНА́ЦЦА, *дзеясл.* Абвінацца, ухутвацца ў што-небудзь. *Хадзі ты ўжо, абвінайся ў хусткі, ато пыра ўжо ехаць.* Пірагова Мсцісл. *Вот ужо абвінаецца, як узімку ўсёроўна.* Журбін Бялынкав.

АБВІНУ́ТЫЙ, *прым.* Захілены [захінуты], захутаны. *Бярозка стаіць абвінутыя ў сьнег, што дзіцёнык у тулуп.* Пірагова Мсцісл. *Ці добра хоць ты абвінутый, глядзі, каб ня зьмерз?* Немерка Раснян.

АБВІНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Захутацца, захіліцца [захінуцца]. *Во зьбегаю толькі ў хату абвінуся — тады пойдзем, ато так халодна.* Пірагова Мсцісл.

АБВІНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Захіліць [захінуць], захутаць. *Абвіні дзіцёнка хусткый, ато зьмерзьніць: ны дварэ халодны вецір.* Гарбавічы Касцюк. *Нада хуч трохі абвінуць высадкі ны гародзе, бо вецер зломіць.* Пірагова Мсцісл.

АБВІНЫВАЦІЛЬ, -я, *м.* Абвінавальнік [абвінаваўца]. *Ны судзе Міхей быў абвінывацілім.* Дзіснакіта Мсцісл., Маластоўка Краснап.

АБВІХНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Памыліцца [ашукацца]. *Як жаніўся, думаў — будзіць жонка добрая, ажно абвіхнуўся: такій гультай, што хуць ты колам у сьцяну бі.* Пірагова Мсцісл.

АБВІХНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Ашукаць, аблічыць. *Ён у мяне такій нейкій нягеглый, глядзіця, каб яго там хлопцы ні абвіхнулі.* Асмолавічы Мсцісл.

АБВІЦЬ, *дзеясл.* Абвіць. *У етый махоткі тресну́ў толькі адзін бок, нада абвіць бяростыю, дык харошый бірясьцень для сыруў будзіць.* Бяседавічы Хоцім. *Націна гырбуза абвіла і спутыла націну бульбы.* Слаўнае Мсцісл.

АБВІШЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Абвяшчаць, апавяшчаць, аб'яўляць. *Абвішчалі, што зямлю будуць надзіляць.* Б. Хутары Краснап.

АБВУ́ТРЫЦЬ, *дзеясл.* Пачаць днець, заняцца на дзень. *Як абвутрыла, паехыў бацька ў лес.* Палуж Краснап.

АБВЫКА́ЦЬ, *дзеясл.* Прывыкаць. *Абвыкла тут, дык ужо й ня скушна.* Сохана Мсцісл.

АБВЫ́КЛАСЬЦЬ, -і, *ж.* Звыкласць, прывычка. *Да ўсяго трэба мець абвыкласьць.* Сохана Мсцісл.

АБВЫ́КЛЫЙ, *прым.* Звыклы, прывыклы [прывычны]. *Ён к астрогу ўжо абвыклы: другі год сядзіць.* Каробчына Мсцісл. *Абвыклы ўжо да холаду.* Палуж Краснап.

АБВЫ́КНУЦЬ, *дзеясл.* Звыкнуць, прывыкнуць. *Нада абвыкнуць кыла новыга дзела.* Дзіснакіта Мсцісл.

АБВЫ́КШЫЙ, *прым.* Звыклы. *Наша*

*сыбака зьвярнулась двору: дужа йна абвыкшыя к нам.* Дзіснакіта Мсцісл. *Яму ні холадна: ён аббыкшый да холаду.* Хвёдараўка Краснап.

АБВЫЛЫ́НДЫЦЬ, *дзеясл.* Абвалындаць, абыйсці, абвандраваць. *Увесь сьвет абвылындыў, прайдзісьвет етый.* Пірагова Мсцісл.

АБВЫРГА́НІЦЬ, *дзеясл.* Зрабіць лоўка справу, абварганіць. *Сяньня мы, братка, такую справу абвырганілі, што дасьць бог, грошаў повін кырман будзіць!* Пірагова Мсцісл.

АБВЫРГА́НЬВЫЦЬ, *дзеясл.* Абварганьваць, абыгрываць, ашукваць. *Дос-ка вам ужо ў карты рэзыцца, бо вы, здэцца, пычалі абвырганьвыць адзін аднаго.* Пірагова Мсцісл.

АБВЫ́ЧКА, -і, *ж.* Прывычка. *Дурная абвычка ета — курыва, але нічога ня зробіш, ніяк ня можна атучыцца курыць!* Каробчына Мсцісл. *Абвычка — бальшоя дзела.* Палуж Краснап.

АБВЯ́ЗКА, -і, *ж.* Вялікая хустка [і абвязванне]. *Добрыя ў цябе абвязка, цёплыя.* Гарадок Міласл. *Зывяжы абвязку ны гылаву, цяплей будзіць.* Хвёдараўка Краснап.

АБВЯСЬЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Абвясціць, зрабіць абвестку. *Трэба сходзіць у вёску ды абвясьціць, што заўтра ў сельсавеці будзя сход.* Дзіснакіта Мсцісл. *Трэба абвясьціць усім, каб ішлі на сход.* Сохана Мсцісл. *Нада абвясьціць аб етым усюдых.* Палуж Краснап.

АБВЯШЧО́НЫЙ, *прым.* Абвешчаны. *Жаніх зь нявестый ужо ў цэркві абвяшчоный.* Дзіснакіта Мсцісл., Маластоўка Краснап.

АБГАВО́Р, -а, *м.* Нагавор. *Людзкі абгавор ета.* Хвёдараўка Краснап.

АБГАВО́РЫНЫЙ, *прым.* Абгавораны, асуджаны [зняслаўлены]. *Дзейка абгаворына, цяпер ніхто яе ўзамуж ня возьме.* Дзіснакіта Мсцісл. *Ета дзела ўжу 'бгаворіна.* Палуж Краснап.

АБГА́ДВЫЦЬ, *дзеясл.* Абгадваць, абмяркоўваць, думаць аб чым загадзя. *Ён абгадвыіць, як бы яму сёлета паехаць вучыцца.* Пірагова Мсцісл.

АБГА́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Запэцкацца. *Цялёнак мой увесь абгадзіўсь, ён, глядзі, хворый!* Пірагова Мсцісл.

АБГА́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Запэцкаць, забрудзіць. *Дзе й ты так спадніцу абгадзіла? Уся ў плямых.* Камароўка Крыч.

АБГАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Пачакаць. *Абгадзіця мяне, разым пойдзем.* Гібалы Касцюк. *Ды 'бгадзі ты трохі, ні сьпяшы!* Пірагова Мсцісл.

АБГА́ЖЫВАЦЬ, *дзеясл.* Пэцкаць, забруджваць. *Убяры аттуль бяльлё, ато куры абгажываюць.* Пірагова Мсцісл.

АБГАЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Пагаліцца, пабрыцца. *Сяньні абгаліцца нада піряд сходым.* Краснаполле. 2. Абнасіцца ў адзежы [адзеннем]. *Буду хутчэй кросны ткаць, ато абгалілісь чыста, дзеці з голымі жывытамі ходзяць.* Асмолавічы Мсцісл.

АБГАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Агаліць. *Ігнат абгаліў сваю быраду, дык і ні пызнаць — мыладэй стаў.* Высокі Бор Краснап. 2. Абтрэсці да гала. *Абгаліў вецер усё лісьця з дрэў.* Пірагова Мсцісл.

АБГАЛО́ЧЫНЫЙ, *прым.* Абгалочаны, абабраны да гала. *Зьвялі ў яго пасьледнюю кабылу, цяпер ён ужо абгалочыны да ніткі.* Юшкі Мсцісл.

АБГАРНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Абвінуцца, захінуцца. *Абгарнулыся хусткаю і сядзіць сабе.* Пірагова Мсцісл.

АБГАРНУ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Абвінуць, захінуць. *Абгарні ты яе сваей палой.* Слаўнае Мсцісл. *Абгарні-ка ты мне ногі цяплей!* Пірагова Мсцісл. 2. Апанаваць. *Каб цябе нішчасьця 'бгарнула!* Там жа.

АБГА́РНЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Абгарнавацца, абвінацца, захутвацца. *Нада ўзімку цяплей абгарнывыцца.* Пірагова Мсцісл.

АБГА́РНЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Абгарнаваць, абвінаць, захутваць. *Пойдзем-ка высадкі абгарнывыць, ато памерзнуць.* Пірагова Мсцісл.

АБГАРО́ДЖАНЫЙ, *прым.* Абгароджаны. *Сад абгароджан плятнём.* Пацкава Мсцісл. *Наша сажылка 'бгароджына.* Мацутаўка Раснян.

АБГАРО́ДЖЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Абгароджваць. *Капусту нада абгароджываць, штоб скаціна ні ўлезла.* Маластоўка Краснап.

АБГАРЭ́ЛЫЙ, *прым.* Абгарэлы. *Тут стаяў вялікій дуб, а січас ад яго толькі адзін абгарэлы пень зыстаўся.* Зоры Чэрык. *Узяў нейкую 'бгарэлую палку ды адгыняя карову — гэта ж ня можна.* Журбін Бялынкав.

АБГАСЬЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Адпачыць пасля дарогі. *Дай ты мне (а)бгасьціцца пасьля дарогі.* Юшкі Мсцісл.

АБГЛЕ́ДЖАНЫЙ, *прым.* 1. Абгледжаны, абшуканы. *Хто абгледжаны, ніхай з хаты выходзіць.* Пірагова Мсцісл. 2. Дагледжаны. *Хата твыя ладна 'бгледжана к зіме.* Там жа.

АБГЛЕ́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Абглядзецца, паглядзець, пашукаць у сябе. *Сам абгледзься, можа йшчэ і ў кішэні грошы!* Пірагова Мсцісл.

АБГЛЕ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* 1. Аглядзець. *Раньш, чым купляць, нада абгледзіць.* Зоры Чэрык. 2. Абкрасці. *Нечага ўжо іці глядзець: абгледзілі людзі добрыя — німа ні званьня!* Пірагова Мсцісл.

АБГЛІДА́НЫЙ, *прым.* Абгледжаны. *Гэта бульбяньнё ўжо абгліданыя, ты стынавісь далей* (калі бульбу пераворваюць). Пірагова Мсцісл.

АБГЛІДА́НЬНЯ, -я, *н.* Абгляданне, агляд. *Доктыр зрабіў абгліданьня тае раны, штоб пызнаць, чым забітый.* Горлава Раснян.

АБГЛІДА́ЦЬ, *дзеясл.* Абглядаць, аглядаць. *Нада ўсі вазы абглідаць, ато нічога ня знойдзеш.* Янава Раснян.

АБГЛЫДА́ЦЬ, *дзеясл.* Абгладаць, абгрызці. *На, абглыдай масол.* Касцюковічы. *Зайцы абглыдалі мыладую яблынку, усохніць.* Зоры Чэрык.

АБГЛЯ́Д, -у, *м.* Агляд. *Пры абглядзе паўшай быдлы былі пынятымі Андрэй і Міхась.* Міцькаўшчына Мсцісл.

АБГЛЯДЗЕ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Агледзец-

ца. *Абглядзейся я наўкола і ні пызнаю месца — заблудзіў я.* Горлава Мсцісл. 2. Заводзіць гаспадарку. *Пысядзей ён, абглядзейся на новым месцы, цяпер у яго і хата свыя.* Пірагова Мсцісл.

АБГЛЯ́ДЫВАЦЬ, *дзеясл.* 1. Абглядваць [аглядаць, прыглядацца], шукаць. *Хуць сколькі хоч абглядывай, усё'дно ня знойдзеш!* Пірагова Мсцісл. 2. Аглядваць (будынак, каб быў цёплы), затыкаць шчыліны. *Хата ўжо абгледжыныя, цяпер нада пуню абглядываць, штоб сьнегу ні надула.* Зубаўка Раснян. 3. Выглядваць, сачыць [асочваць]. *Прышоў абглядываць, злодзей етый, штоб пысьля ўкрасьці.* Іванаўка Хоцім.

АБГО́ЛЕНЫЙ, *прым.* Абголены. *Такій ён вужасны пысьля тыфу — абголеный, худэй.* Асмолавічы Мсцісл.

АБГО́РНУТЫЙ, *прым.* Абгорнуты, ахілены [абхінуты], захутаны. *Дрэмліць лес, абгорнутый смугай.* Пірагова Мсцісл.

АБГО́ЦЫЦЬ, *дзеясл.* Аббегчы [абскакаць], абысці. *Мархва даетуль усі двары абгоцыла.* Юшкі Мсцісл.

АБГРЫ́ЗЫК, -зка, *м.* Агрызак, недаедак. *Дзіцёнык пыдняў абгрызык яблыка ды есьць, адбяры ў яго!* Янава Раснян. *Паеў тхор усіх пісклят, адны абгрызкі ды перра зысталісь.* Пірагова Мсцісл.

АБГРЫ́ЗЫЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад абгрызак. *Купі мне, татка, кырындаш, ато ў мяне адзін абгрызычык зыстаўся.* Пірагова Мсцісл.

АБГРЫ́ЗЬЦЬ, *дзеясл.* Абгрызці, абгладаць. *Зайцы яблыні ўсі абгрызьлі — увесь сад прыпаў.* Шыркі Раснян.

АБГРЭСЦА, *дзеясл.* Шмат набраць [абгрэбціся]. *Ік ныпаў ны ягыды, дык абгробся — на 'дным месцы гырлач ныбраў.* Хвёдараўна Краснап.

АБГЫВАРО́НЫЙ, *прым.* Абгавораны. *Абгывароныя дзеўка ныпрасна.* Палуж Краснап.

АБГЫВА́РЫВАЦЬ, *дзеясл.* Абгаворваць, гаварыць нядобрае пра другіх. *Сямёнаўна дужа любіць абгыварываць, во надоічы іна кызала, што Сяргей пыкраў коні.* Навасёлкі Мсцісл.

АБГЫВАРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Абгаварыць, абмеркаваць. *Етыя дзела абгыварыць нада.* Расна. 2. Узвесці паклёп. *Ты радый чылавека абгываріць.* Хвёдараўка Краснап. *Абгываріць яму чылавека — плюнуць.* Маластоўка Краснап.

АБГЫДА́ЦЬ, *дзеясл.* Абгадаць, прыдбаць, набыць. *Абгыдаў сабе я добрыга коніка.* Юшкі Мсцісл.

АБГЫЛАСІ́ЦЬ, *дзеясл.* Абвясціць, сказаць. *Абгыласі ты ім, каб сьціхлі!* Пірагова Мсцісл.

АБГЫЛАЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Зрабіць голым, абабраць да ніткі. *Абгылаціў ты мяне, пыбраў маё ўсё чыста.* Юшкі Мсцісл.

АБГЫЛАЧЭ́НЬНЯ, -я, *н.* Зґаленне, бядота. *Хата пакрывілась, пуні німа чым крыць, карова здохла — абгылачэньня чыстыя.* Юшкі Мсцісл.

АБГЫЛАШО́НЫ, *прым.* Абвешчаны. *Гэтый роспуск* [развод] *ужо абгылашоны ў газэце.* Пірагова Мсцісл.

АБГЫЛАШЭ́НЬНЯ, -я, *н.* Абгалоска [аб'ява], абвестка голасам. *Пачалось абгылашэньня запісаўшыхся.* Пірагова Мсцісл.

АБГЫЛЫЧА́ЦЦА, *дзеясл.* Бяднець, галець. *Абгылычаемсь мы паступова, а новыга сабе нічога не спрыўляем.* Юшкі Мсцісл.

АБГЫЛЫША́ЦЬ, *дзеясл.* Абвяшчаць. *Ціха, буду абгылышаць сьпіс жыдаючых уступіць у кылгас.* Затоны Раснян.

АБГЫЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Абношвацца, дзерці адзенне. *Дзеці чыста абгыляюцца, а пашыць некылі — ніўпраўка ўсё.* Журбін Бялынкав. *Буду хутчэй кросны ткаць, ато 'бгаліліся чыста.* Пірагова Мсцісл.

АБГЫРАДЖЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Абгароджваць. *Калі ня хочыш, штоб сьвіньні хадзілі ў гарод, дык нада абгыраджывыць.* Бяседавічы Хоцім.

АБГЫРАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Абгарадзіць, загарадзіць наўкола. *Нада паехаць у лес прывезьць лескі, абгырадзіць палісаднік.* Сохана Мсцісл.

АБДАРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Абдарыць, даць падарунак. *Ік прыедуць з царквы жаніх зь нявестый, то нада іх быгата абдарыць, ніхай жывуць быгата.* Дзіснакіта Мсцісл. *На імініны яго абдарылі — пыдаркый нынясьлі быгата.* Хвёдараўка Краснап.

АБДА́ЦЦА, *дзеясл.* Абліцца вадою. *Абдайся вадою, ні так жарка будзіць.* Маляцічы Крыч. *Я толькі вадою абдамся ды пойдзем адзівацца.* Журбін Бялынкав. *Абдаўсь вадой ды годзе.* Хвёдараўка Краснап.

АБДА́ЦЬ, *дзеясл.* Абліць. *Абдай дзіцёнка летнінькай вадой.* Палуж Краснап.

АБДЖО́ГЫЦЬ, *дзеясл.* Высцебаць. *Абджогылі хлыпца розычкымі.* Дзіснакіта Мсцісл.

АБДЖЫ́ГЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Абкусаць (пра пчол). *Пчолы абджыгылі хлыпца — увесь апух.* Будагошч Мсцісл. *Пчолы чыста абджыгылі Якыва.* Палуж Краснап. 2. Высцебаць. *Абджыгыла мяне матка хлыбазінай ды выгныла з хаты.* Пірагова Мсцісл.

АБДЗЕ́ЛЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Апрацоўваць. *Пычалі Аксёна 'бдзелывыць.* Краснаполле.

АБДЗЕ́ЛЫЦЦА, *дзеясл.* Абрабіцца, запэцкацца ў што-небудзь бруднае. *Дзе йта ты абдзелыўся етык?* Палуж Краснап.

АБДЗЕ́ЛЫЦЬ, *дзеясл.* Абрабіць, запэцкаць. *Пыдымай вышы сыян, ато ўсю падбійку абдзелыіш.* Бяседавічы Хоцім.

АБДЗЕЎБУВАЦЬ, *дзеясл.* Абдзёўбваць. *Куры капусту абдзёўбуваюць — што зь імі рабіць?* Пірагова Мсцісл.

АБДЗЕ́ЎБУНЭЙ, *прым.* Абдзяўбаны, абкляваны. *Наш пітух усей абдзёўбунэй: гылыва прабіта, дайжа глядзець ні можыць.* Брылёўка Краснап.

АБДЗІРА́ЛА, -а, *м.* Чалавек, які хоча забраць усё ў свае рукі з крыўдай для другога. *Прыдываў спікулянт цукер, еткій абдзірала — у тры дыргі бярець.* Слаўнае Мсцісл. *Ці ў яго дакупісься? Абдзірала етый скуру хочыць сыдраць, а ня то што.* Міцькаўшчына Мсцісл.

АБДЗІ́РКІ, -рак, *мн. л.* Абдзіркі, абноскі адзення. *Малэя дзеці абдзіркі большых носюць.* Палуж Краснап.

АБДЗІЎБАЦЬ, *дзеясл.* Абдзяўбаць [абдзяўбці]. *Каб на іх каршун, на етых курэй! Усю капусту абдзіўбалі ны гародзі.* Пірагова Мсцісл.

АБДЗЯЎЖУЛІЦЬ, *дзеясл.* Абдзяжыць, высцебаць дзягаю, раменным пасам. *Спыймаў я іх у сваім садзе ды добра 'бдзяўжуліў — будуць помніць доўга.* Каменка Расньян.

АБДМУХАЦЬ, *дзеясл.* Абдзьмухаць, здуць пыл. *Падніме хлеб з мосту* (падлогі), *абдмухай ды еж.* Затоны Расньян.

АБДМУХІВЫЦЬ, *дзеясл.* Абдзьмухваць, здуваць пыл. *Нышла ягыдку ны масту, пыдніла і абдмухівыць.* Іванаўка Хоцім.

АБДМУХЫНЫЙ, *прым.* Абдзьмуханы. *Еж етый кусок хлебу, хоць ён упаў на мост, але ён абдмухынэй.* Пірагова Мсцісл. *Ні глядзі, што хлеб пыд сталом быў, еж: ён чысты, абдмухыный.* Іванаўка Хоцім.

АБДРАПЫНЫЙ, *прым.* Паранены [абдрапаны]. *Ні магу курдопы чысьціць: паліц абдрапыный, баліць.* Арцёмаўка Міласл.

АБДРАПЫЦЬ, *дзеясл.* Абдрапаць, параніць пазногцямі [кіпцюрамі]. *Кошка кыгцямі абдрапыла мне паліц.* Слаўнае Мсцісл.

АБДУВАЛА, -а, *м.* Ашуканец. *Ну й абдувала етый хлапец: абдуріў Ціхона на шэсьць рублёў.* Дзіснакіта Мсцісл. *Абдувала етый каго хочіш абдуріць.* Б. Хутары Краснап.

АБДУВАЦЦА, *дзеясл.* Пухнуць. *Сьпірша пычалі ў яе рукі абдувацца, тады пышла пухліна на ўсім целі, і памёрла.* Пірагова Мсцісл.

АБДУЛУВАТЫЙ. *прым.* 1. Адутлаваты. *Такій абдулуватый, усё роўна што запухшы.* Палуж Краснап. 2. Апухлы. *Чаго йта ў яго тыкая рожа абдулуватыя, ці ён хворый?* Дзіснакіта Мсцісл.

АБДУЛЫЙ, *прым.* Апухлы. *Ліцо нейкыя абдулыя, ці хто пабіў, ці што?* Пірагова Мсцісл.

АБДУМАЦЦА, *дзеясл.* Абдымацца. *Ен яшчэ абдумаўся і нічога ня чуў.* Хвёдараўка Краснап.

АБДУМЫЦЦА, *дзеясл.* Абдумацца. *Ці ты адурей, што ты дзелыіш? Абдумыйся ты!* Малятычы Крыч.

АБДУР, -у, *м.* Абман [ашуканства]. *Нічога ты добрага там ня ўвідзіш: абдур, абважваньне, болі нічога; лепш ні вязі ты туды свой хлеб.* Пірагова Мсцісл.

АБДУРВЫЦЦА, *дзеясл.* Ашукваціца. *Ці ўпершыню яму абдурвыцца? Абдурыўсь і цяпер, купіўшы етыга кыня.* Дзіснакіта Мсцісл.

АБДУРІЦЬ, *дзеясл.* Ашукаць, абмануць. *Васіль такі мот, што на кожным шагу абдуріць.* Гібалы Касцюк. *Тылызьнік ты, большы ні абдуріш.* Слаўнае Мсцісл. *Во мот: уваччу хочыць абдуріць!* Дубеец Касцюк.

АБДУРЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Ашукваць. *Прывык ён людзей абдурывыць, тылызьнік етый.* Дзіснакіта Мсцісл. *Будзіць ужо 'бдурывыць людзей, ідзі, 'дкуль прішоў.* Б. Хутары Краснап.

АБДУРЫНЫЙ, *прым.* Абмануты [ашуканы]. *Так ён і пашоў з кірмашу абдурыный. Спыдмануў яго цыган: прыдаў яму кыня хворыга, замест добрыга.* Дзіснакіта Мсцісл. *Ні вяжысь ты зь ім, бо зыстанісься абдуріный.* Маластоўка Краснап.

АБДУРЫЦЦА, *дзеясл.* Абмануцца, ашукацца. *Абдуріўсь я здорыва на етым дзелі.* Палуж Краснап.

АБДУРЫЦЬ, *дзеясл.* Ашукаць, абмануць. *Што, лёхка абдурыць Палугодкіна Сідыра, ён усім дывірая.* Дзіснакіта Мсцісл. *Ні купляй у цыгына, бо ён цібе абдурыць.* Горкі Краснап.

АБДУЦЦА, *дзеясл.* Памыліцца. *Абдуўся я нашчэнт з гэтым дыгаворам, ня ведаю, як і выкруціцца.* Пірагова Мсцісл.

АБДУЦЬ, *дзеясл.* 1. Ашукаць. *Хапіла ў цябе совісьці абдуць дзіцёнка?* Пірагова Мсцісл. 2. Абыграць у карты. *Мы ўдваіх скарэй яго абдуем, ніхай дужа ні гынарыцца, што ведыіць усі ходы.* Там жа. 3. Высцебаць. *Абдуй сына рэмням.* Іванаўка Хоцім.

АБДЫРЫВАНЫЙ, *прым.* Абдараваны, шчодра надзелены падарункамі. *Прышоў ён ат цёткі вясёлы, абдырываный гасьцінцамі.* Юшкі Мсцісл.

АБДЫРЫВАЦЬ, *дзеясл.* Абдараваць, надаваць падарункаў. *Абдырывалі нявесту спычатку ўся рыдня, а тады госьці.* Пірагова Мсцісл.

АБЕД, -а, *м.* Абед, полудзень. *Яна папіняла за мой абед.* Паходавічы Чэрык. *Ны абед мала сяньні зваріла: махотку кардохыль ды капусты.* Арцёмаўка Міласл. *На 'бед былі адны мундзяры.* Палуж Краснап.

АБЕДАЦЬ, *дзеясл.* Есці полудзень, палуднаваць. *Бяжы, Ганка, пакліч татка, абедаць будзем.* Паходавічы Чэрык. *Пыстаў к сталу слон ды будзем абедаць.* Казённая Буда Краснап.

АБЕДАШНІК, -а, *м.* Гаршчок, у якім носяць у поле полудзень. *Матка наліла ў абедашнік стравы і накірувала ў поля ды бацькі.* Куляшоўка Клім.

АБЕДАШНІЦА, -ы, *ж.* Абрус. *Зысьцялі абедашніцу ды будзем садзіцца за стол.* Глінь Касцюк.

АБЕДЗІКІ, -аў, *мн. л.* Дзіцячая гульня. *Дзеці сыбралісь і гуляюць у абедзікі.* Шарэйкі Касцюк.

АБЕДЗЬВІ, *ліч.* Абедзве. *Ні магу ўзяць болі нічога: абедзьві рукі заняты.* Старае Сяло Мсцісл. *Абедзьві каровы пабеглі ў поля.* Гарбавічы Касцюк.

АБЕДЗЬДЗЯ, -я, *н.* Поўдзень, пара, калі сонца стаіць найвышэй. *Бацька ў абедзьдзя прыдзя ўдвору.* Палуж Краснап.

АБ'ЕДЗЬДЗЯ, -я, *н.* Аб'едкі. *Увясну, як сена ня будзець, дык і аб'едзьдзя сажрэць.* Сутокі Мсцісл.

АБЕДНЯ, -і, *ж.* Царкоўная служба. *Пызванілі ўжо ва ўсі званы к абедні.* Пірагова Мсцісл. *У нымастыры абедню служыць поп з дзякыным.* Тупічына Мсцісл.

АБЕДЫ, -аў, *мн. л.* Поўдзень. *Каровы прышлі з поля ў абеды.* Гібалы Касцюк. *Цяпер ужо будуць харошыя абеды — сонца вунь дзе!* Там жа.

**АБЕ́ДЫЦЬ**, *дзеясл.* Абедаць. *Зысьцялі настольнік, будзем абедыць.* Слаўнае Мсцісл. *Дыстывай пытравы, будзем абедыць.* Қокатава Мсцісл. *Сонца ўжу ны пайдзён — пыра абедыць.* Арцёмаўка Міласл.

**АБЕ́ДЫШНІК**, -а, *м.* Абедашнік, абрус. *Купіла сабе абедышнік лі лета.* Мсціслаў.

**АБЕЗАХО́ЦІЦЬ**, *дзеясл.* Адбіць ахвоту, цікавасць да чаго. *Абезахоціў ён мяне ехаць, кажыць, німа там работы.* Пірагова Мсцісл.

**АБЕЗНАДЗЕ́ІЦЦА**, *дзеясл.* Страціць надзею. *Я ўжо цяпер ня думаю пулучыць грошы, абезнадзеіўсь!* Пірагова Мсцісл.

**АБЕЗНАДЗЕ́ІЦЬ**, *дзеясл.* Знішчыць надзею [і пазбавіць надзеі]. *Хацеў я ў Добрым карову купляць, ажно абезнадзеілі мяне, кажуць — ні варта: карова дрэнь.* Пірагова Мсцісл.

**АБ'Е́ЗЬДЗІЦЬ**, *дзеясл.* Аб'ездзіць. *Дзе ён толькі ні быў — увесь свет аб'езьдзіў.* Б. Хутары Краснап.

**АБЕ́НАЖ**, *прысл.* Верхні, вярхом. *Сеў абенаж на жэрдзь і едзе, як ны кані.* Гібалы Қасцюк. *Сядзеў абенаж на мыжары, а конь ік тырканець, а ён кумільгым ды пыд каток.* Гімбатаўка Мсцісл.

**АБЕ́РНУТЫ**, *прым.* Перавернуты дагары дном. *Пыдай мне, Мар'я, чыгунчык, што абернуты ны лаўцы.* Куркаўшчына Мсцісл.

**АБЕ́РУЧ**, *прысл.* Аберуч. *Ухапіўся аберуч зы палку і ня пускаіць.* Іванаўка Хоцім. *Ты вазьмі гаршчок аберуч, ато ні дынясеш, гырач.* Пірагова Мсцісл. *Тыкая прыгожыя дзяўчына, ён ба аберуч яе ўзяў, дык іна ня хочыць.* Слаўнае Мсцісл.

**АБ'Е́ХАЦЬ**, *дзеясл.* Аб'ехаць. *Трэ' было аб'ехаць ету кулдобіну, ато каткі пы самыя ступіцы ўвыгнаў у гразь.* Маркаўка Хоцім. *Нада аб'ехаць ету лужу.* Пірагова Мсцісл. *Дзе ён толькі ні быў? Увесь сьвет аб'ехаў.* Белы Қамень Бялынкав.

**АБЖА́ЛІНЫЙ**, *прым.* 1. Абскарджаны. *Прыгавор суда ўжо абжаліный у воблысць.* Краснаполле. 2. Пакрыўджаны. *Атышоў ён ат маткі абжаліный — ні дала іна яму грошаў.* Сохана Мсцісл.

**АБЖА́ЛІЦЬ**, *дзеясл.* 1. Абвінаваціць. *Ён абжаліць мяне, што я кабылу зьвеў, як жа ж мне ні крычаць!* Пірагова Мсцісл. 2. Абскардзіць. *Пыстанову суда ішчэ абжаліць можна.* Краснаполле.

**АБЖА́ЛЫВАНЭЙ**, *прым.* Абскарджаны. *Тут запісаны розныя абжалываныя пытаньні.* Асмолавічы Мсцісл. *Пыстанова суда будзець абжалывына вышэй.* Журбін Бялынкав.

**АБЖА́ЛЫВЫЦЬ**, *дзеясл.* Абскардзіць. *Я абжалыю ны цябе ў суд.* Пірагова Мсцісл. *Суд прісудзіў яму пяць гадоў цюрьмы, ён яшчэ хочыць абжалывыць у вышэйшы.* Слаўнае Мсцісл.

**АБЖА́РЫНЫЙ**, *прым.* Абсцябаны. *Пырасёнык прыбег увесь абжарыный пастуховай пугай.* Пірагова Мсцісл.

**АБЖА́РЫЦЬ**, *дзеясл.* 1. Абсцёбаць, высцебаць. *Абжарылі яго хлопцы аж да крыві.* Юшкі Мсцісл. 2. Абабіць. *Ну й абжарыў етый сноп — ні зернійка ні пакінуў.* Слабада Бялынкав.

**АБЖА́ТЫЙ**, *прым.* Абжаты. *Пакінулі абжаты залом на полі.* Куравічы Мсцісл. *Стаіць там нечае жыта, з усіх бакоў абжатыя.* Пірагова Мсцісл.

**АБЖА́ЦЬ**, *дзеясл.* Абжаць, зжаць жыта наўкол ці пражаць праход. *Проста ні спрыўляімсь працуваць — абжалі кругом!* Юшкі Мсцісл. *Сяньні нада 'бжаць, а заўтры з жніяркай пойдзем.* Бобрыкі Мсцісл.

**АБЖО́РА**, -ы, *м.* і *ж.* Абжора, чалавек, што многа есць. *Абжоры етыму сколькі ні дывай, усё зьесьць і мала.* Қасцюковічы.

**АБЖУ́ЛІЦЦА**, *дзеясл.* Памыліцца ўвачавідкі, даць сябе ашукаць. *Вось абжуліўсь, дык абжуліўсь, зы такея ночвы зыплаціў ажно два рублі.* Мсціслаў.

**АБЖУ́ЛІЦЬ**, *дзеясл.* Ашукаць. *Абжулілі Мікіту ны таргу — зы сьляпую кабылу сто рублёў аддаў.* Мсціслаў.

**АБЖЫВА́ЦЦА**, *дзеясл.* Прывыкаць да новага месца [і нажываць маёмасць, гаспадарку]. *Наперва дужа ні хацелысь там жыць, а цяпер троху абжывацца пычаў.* Дзіснакіта Мсцісл. *Пычынаім абжывацца на новым месцы.* Палуж Краснап.

**АБЖЫДА́ЦЬ**, *дзеясл.* Чакаць. *Мы ўмовілісь, што ён будзіць абжыдаць мяне на піrапуцьці.* Пірагова Мсцісл. *Ён скызаў, што будзіць абжыдаць нас.* Цёмны Лес Раснян.

**АБЖЫНА́ЦЬ**, *дзеясл.* Абжынаць. *Нада ідці сяньня жаць у Місаўку* (назва поля), *ато там пычалі ўжо абжынаць нас.* Пірагова Мсцісл.

**АБЖЫ́ЦЦА**, *дзеясл.* Прывыкнуць да новага месца [нажыць маёмасць, гаспадарку]. *Ну, як ты, абжыўсь на новым месьця?* Іванаўка Хоцім. *Троху абжыўся я, і нічога, жыву.* Дзіснакіта Мсцісл. *Наперва дужа ні хацелысь там жыць, а ціпер троху 'бжыўсь.* Б. Хутары Краснап.

**АБЖЭ́РЦІСЬ** [абжэрца], *дзеясл.* Аб'есціся. *Абжэрлась латкымі, дык вады пражэць.* Бакунавічы Чэрык.

**АБЗАВО́ДЫК**, -дка, *м.* Завод, развод. *Кінь ты мне вяпручка ны 'бзаводык.* Пірагова Мсцісл.

√ **АБЗДА́ЦЦА**, *дзеясл.* Абдацца. *Абздайсь вадой ды йдзі адзівацца.* Дзягавічы Крыч.

**АБЗІРА́ЦЬ**, *дзеясл.* Аглядаць. *Пайду абзіраць свае ўлыданьні, мо' там межы парыспахыны?* Асмолавічы Мсцісл.

**АБЗО́Й**, -я, -ю, *м.* Қрай дошкі з карою. *На мост дошка і з абзоім пойдзіць, уніз яго можна пывярнуць.* Мсціслаў.

**АБЗО́Л**, -у, *м.* Абзол. *На етый дошкі абзол нівялікій, сайдзець.* Хвёдараўка Краснап. *Дошкі ў абрэз, біз абзолу.* Мсціслаў.

**АБЗО́ЛЬЛЯ**, -я, *н.* Попел. *Вымець абзольля с печы ды выкінь ны гарод.* Іванаўка Хоцім.

**АБІБО́К**, -а, *м.* 1. Абібок, гультай. *Ладный майсьцер, усё зьдзелыіць, але абібок вялікі, работыць ня хочыць.* Мсціслаў. 2. Непаваротлівы, нехлямяжы. *Ну й сьмешны Міхась Матрунін — дзе паверніцца, усё ляціць — абібок да й толькі!* Дзіснакіта Мсцісл.

**АБІБО́КА**, -і, *м.* і *ж.* Абібок, гультай. *Абібока етый нічога ні работаіць, а толькі*

*пы суседам бегаіць. Іна — абібока вялікыя.* Б. Хутары. Краснап.

АБІВАЦЬ, *дзеясл.* Аббіваць, збіваць. *Нада дзьверы матыю абівець, ато ў хаці халодна будзець.* Бакунавічы Чэрык. *Дзеці яблыкі абіваюць палкымі.* Маркаўка Хоцім.

АБІДА, -ы, *ж.* Крыўда. *Абіда мне ны яго быльшая, што ён так ізьдзелыў.* Слабада Расnян. *Ні сьцярплю я такея абіды.* Слаўнае Мсцісл.

АБ'ІДАЦЦА, *дзеясл.* Аб'ядацца, наядацца. *У нас харошыя паша: каровы аб'ідаюцца проста.* Арцёмаўка Міласл.

АБІДЗІЦЬ, *дзеясл.* Пакрыўдзіць. *Міма волі я абідзіў тывapiша.* Слаўнае Мсцісл.

АБІДНІК, -а, *м.* Чалавек, што зрабіў крыўду, абіду. *Вуна мой абіднік, ворaг мой лютый пашоў!* Пірагова Мсцісл.

АБІЗАЦІЛНА, *прысл.* Абавязкова. *Скажы ёй, ніхай іна абізацілна прынясецъ мне маю матыку.* Асмолавічы Мсцісл. *У етый затоні абізацілна вуткі будуць.* Бясeдавічы Хоцім. *Ці йта конна ён доўжын ехаць? Ета ні абізацілна, можыць і хто-небудзь другей паехаць.* Арцёмаўка Міласл. *Абізацілна прыйдзі сяньні ды мяне.* Высокі Бор Краснап. *Ты абізацілна зайдзі ў кыпіраціў і купі хлапцу шапку.* Горкі Краснап.

АБІЗАЦЦА, *дзеясл.* Абавязацца, узяць на сябе абавязак. *Ён абізаўсь яе карміць, а цяпер ня хочыць.* Васілёўка Хоцім.

АБІЗГЛУЗЬДЗІЦЦА, *дзеясл.* Абяспамятавацца, абяспамяцець, страціць памяць. *Нада ж так абізглузьдзіцца, штоб с пяці рублёў даць сем рублёў здачы.* Высокі Бор Краснап.

АБІЗНАДЗЁЖЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Абезнадзейвацца, траціць надзею. *Ня трэба абізнадзёжывыцца, муся быць іна не памрэць, а палепшыя.* Дзіснакіта Мсцісл. *Ты ні абізнадзёжывыйсь, мо йшчэ знойдзіцца твыя цёлка.* Б. Хутары Краснап.

АБІЗНАДЗЁЖЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Абезнадзейваць, пераконваць у невыгоднасці чаго. *Абізнадзёжывыць яго ня буду, ніхай робіць па-свойму.* Дзіснакіта Мсцісл. *Ні нада абізнадзёжвыць чылавека, і без таго йму цяжка.* Б. Хутары Краснап.

АБІЗНАДЗЁЖНЫЙ, *прым.* Абезнадзеяны, чалавек, што страціў надзею. *Мы былі абізнадзёжныя, думалі, што ні ачуняіць, ажно пыправійся-такі, выжыў!* Вародзькава Крыч. *Ну, гэта ўжо памрэць абывязкова, зусім абізнадзёжныя.* Дзіснакіта Мсцісл. *Абізнадзёжный ён чылавек і нікому ні верыць.* Б. Хутары Краснап.

АБІЗПАМІЦІЦЦА, *дзеясл.* Страціць памяць. *Іна саўсім абізпаміцілась з гора: нічога ні памітуе.* Пірагова Мсцісл.

АБІЗЬЗЯНА, -ы. *ж.* Малпа. *Я відзіў тут у 'днаго пана была абізьзяна, ён яе знекуль здалёка прывёз; ды во вумныя, што чылавек, толькі ні гаворя. Кажуць, што чылавек вырадзіўся з абізьзяны.* Мілаславічы.

АБІРАЦЬ, *дзеясл.* 1. Чысціць бульбу. *Ці будзем абіраць кардоху ны вячэру, ці ў мундзірох зварім?* Жалезніца Крыч. 2. Знімаць грушы або яблыкі з дрэва. *Ідзіце абіраць яблыкі.* Мсціслаў. 3. Выбіраць. *Ідзіце на сходку, будзем абіраць дэлегатыў на зьезд.* Іванаўка Хоцім.

АБІРОК, -рка, *м.* Абірак, астатак. *Я купіла абірок матэрыі, мо' выйдзя кохта.* Шумячы.

АБІРЯЖОНЫЙ, *прым.* Ахованы. *Лес дужа добра абіряжоный.* Краснаполле.

АБІСПІЧАЦЦА, *дзеясл.* Забяспечвацца. *Ты думай, як бы абіспічацца к зіме драўмі.* Пірагова Мсцісл.

АБІЦАНКА, -і, *ж.* Абяцанка. *Абіцанка — цыцанка, а глупыму радысьць. На 'біцанку ён ловык!* Хвёдараўка Краснап.

АБІЦАЦЬ, *дзеясл.* Абяцаць. *Аддам, кажыш? Ды што абіцаць — лепі зарыз аддай!* Старае Сяло Мсцісл. *Мне сістра абіцала ныбраць сарочку, толькі заблыці нада купіць.* Лешчынка Мсцісл.

АБІЦІК, -а, *м.* Аббіцік, збанок з пабітымі краямі. *Вазьмі гырлачык-абіцік у ягыды.* Брылёўка Краснап.

АБІШЧАНКА, -і, *ж.* Абяцанка. *Абішчанку я тваю даўно чуў, але каб споўніць яе, дык ты ні вельмі хыпаісься.* Каробчына Мсцісл. *Абішчанкаю ён і жывець, а каб споўніць, то не.* Хвёдараўка Краснап.

АБІШЧАЦЬ, *дзеясл.* Абяцаць. *Абішчаць ён можыць, толькі ніколі ні спраўдзіць, што абішчаіць.* Вародзькава Чэрык. *Ты даўно мне абішчаіш купіць кохту, ды ўсё ні купляіш.* Каробчына Мсцісл.

АБКАПЫЦЬ, *дзеясл.* Абкапаць, запляміць каплямі [кроплямі] яды. *Во брыдота, усю рубашку абкапыў вірішчакый.* Янава Расnян.

АБКАРХЫНЫЙ, *прым.* Абхарканы, заплёваны. *Ляжыць увесь зьбітый, абкархыный, аж страхота глянуць.* Пірагова Мсцісл.

АБКАРХЫЦЦА, *дзеясл.* Абхаркацца. *Абкархыйся ўвесь кроўю, глядзі—памрэць.* Пірагова Мсцісл.

АБКАРХЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Абхаркаць, запляваць. *Абкархыў ты мне бот, і выцерць нечым.* Забалаццe Крыч. 2. Унізіць, выказаць пагарду. *Абкархыў ён мяне, абплівaў, зьвёў на нішто!* Пірагова Мсцісл.

АБКІТОВАНЫЙ, *прым.* Абкітаваны, замазаны кітам. *Тут усі вокны абкітованы.* Пірагова Мсцісл.

АБКІТОЎКА, -і, *ж.* Абкітоўка, абмазка шкла кітам. *Абкітоўка ў вокнах абсыпылась, нада 'бкітываць нанывa.* Іванаўка Хоцім.

АБКІТУВАНЬНЯ, -я, *н.* Абкітоўка. *Абкітуваньня плахоя: січас атстаніць і шклы павысыплюцца.* Гібалы Касцюк. *Вокны гатовы, толькі абкітуваньня нада зьдзелыць.* Слабада Чэрык.

АБКІТУВАЦЬ, *дзеясл.* Абкітаваць, замазаць шыбы кітам. *Абкітувалі мы сваe вокны.* Затоны Крыч. *Нада 'бкітуваць, ато сьцёклы павысыплюцца.* Пірагова Мсцісл.

АБКЛАСЦА, *дзеясл.* Пакласці не туды, куды трэба. *Абклалыся неяк, і грошы німа.* Б. Хутары Краснап.

АБКЛАСЬЦІ [абкласьць], *дзеясл.* 1. Абкласці, пакласці наўкол. *Зыгывальні трэба абкласьці, зіма надыходзіць.* Зарэчча Мсцісл. 2. Абкласці падаткам. *Абклалі налогым і мой булдыр, а што зь яго карысьці, калі на ём нішто ні расьцець.* Лешчынка Мсцісл. 3. Абкласці (пухлінаю), апухнуць. *Гырлянку бабы зьбіраюць на лекі; кажуць,*

*што йна пымыгаіць, калі горла абкладзець.* Пірагова Мсцісл.

АБКЛЕ́ІЦЬ, *дзеясл.* Абклеіць. *Комныту абклеіць нада, ды абоі дорагі — ні прыступісьсі.* Зарэчча Мсцісл.

АБКЛЯ́ПЫЦЦА, *дзеясл.* Запырскацца гразёю. *Ты нейдзе абкляпыўсь — увесь зад у гразі.* Мсціслаў.

АБКЛЯ́ПЫЦЬ, *дзеясл.* Запырскаць гразёю. *Ехыў ны калёсых і полу ў паліце абкляпыў.* Мсціслаў.

АБКО́ПКІ, -аў, *мн. л.* Дакопкі, канец капанню бульбы. *У нас сяньні абкопкі: усю бульбу выкыпалі.* Хвёдараўка Краснап.

АБКО́СЫК, -ска, *м.* Абкосак, невялікі кавалачак сенажаці выпадкова пакінуты касцамі. *Сварылісь зы мяжу, ажно й абкосык пакінулі.* Віхраны Мсцісл.

АБКРА́СЬЦІ [абкра́сьць], *дзеясл.* Абакрасці. *Ці чулі вы, што Саўчыка сяньні абкралі?* Мсціслаў.

АБКРЕ́СЬЛІНЫЙ, *прым.* Узяты ў дужкі. *Усі абкресьлінія месцы ты ня чытай, ня трэба іх!* Пірагова Мсцісл.

АБКРЕ́СЬЛІЦЬ, *дзеясл.* Акрэсліць, узяць у дужкі на пісьме. *А вот ета, што напісына далей, ты абкресьлі.* Арцёмаўка Мсцісл.

АБКРІВА́УЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Акрываўліваць. *Усі рукі абкріваўлівыіць асакой етый.* Хвёдараўка Краснап.

АБКРІСЬЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Браць у дужкі на пісьме. *Такія словы ў зыяве нада абкрісьляць, іх ня пішуць.* Пірагова Мсцісл.

АБКРО́ІК, -ойка, *м.* Акравак. *Сыбяры абкройкі і выкінь вон.* Хвёдараўка Краснап. *Пысьля крыўца зысталісь абкройкі.* Белы Камень Бялынкав.

АБКРУЦІЦЦА, *дзеясл.* Ажаніцца, абвянчацца [і абкруціцца, зрабіць круга]. *Ігнат-ткі абкруціўсь з Адаркый.* Палуж Краснап.

АБКРУ́ЧЫВЫНЬНЯ, -я, *н.* Абвінанне. *Зыняўсь абкручывыньням мыладых яблынь саломый, штоб зайцы ні 'бгрызьлі.* Б. Хутары Краснап.

АБКРУ́ЧЫВЫЦЦА, *дзеясл.* 1. Абкручвацца, абвівацца. *Пыстаў тычку лі пасолі, штоб ей было лі чаго абкручывыцца.* Барадзькава Крыч. 2. Вянчацца. *Яшчэ ня ведаем, ці будзем мы абкручвыцца ў цэркві, мо' толькі ў сельсавеці запішымся.* Навасёлкі Мсцісл.

АБКРЫВА́ВІЦЬ, *дзеясл.* Акрывяніць, збіць да крыві. *Яшку сяньні абкрывавілі ў горыдзі — ліца ня пызнаць.* Сапрынавічы Мсцісл.

АБКРЫ́ВЫЧКА, -і, *ж.* Хусціна, якой абкрываюць. *Длі дзіцёнка й абкрывычкі ні маім.* Старае Сяло Мсцісл.

АБКРЫВЯНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Запэцкаць у кроў. *Як калоў я свайго кыбына — абкрывяніў ён мяне ўсяго, а ўсё ні сьвежыіцца!* Пірагова Мсцісл

АБКРЫСЬЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Акрэсліваць, браць у дужкі. *Я буду чытаць, а ты глядзі, каторыі словы нада 'бкрысьляць, каторыі зачырківыць.* Каменка Расняп.

АБКРЫ́УКА, -і, *ж.* Коўдра. *Абкрыўка наша дрэнныя, трэба сыткаць цяплейшую.* Старае Сяло Мсцісл. *Абкріўку на кырваць купіла.* Палуж Краснап.

АБКУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Акаваць. *Калёсы нада було б абкуваць, ды ўсё некылі.* Касперка Міласл.

АБКУДЛА́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Ускудлачыць, узлахмаціць [ускалмаціць]. *Ня лезь сюды, абкудлачым быраду ў кудзелі.* Белы Мох Мсцісл.

АБКУ́САНЫЙ, *прым.* Пакусаны. *Наш сыбака прыбег увесь абкусаны, верна здохніць.* Віхраны Мсцісл.

АБКУСА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Пакусаць, абкусаць. *Шалёны сыбака нашу сьвіньню абкусаў.* Белы Мох Мсцісл. 2. Абкусваць, абгрызаць. *Узяў прывычку абкусаць ногці.* Асмолавічы Мсцісл.

АБКУ́ТЫВЫНЬНЯ, -я, *н.* Захутванне. *Ну, пычалось абкутывыньня! Так адзеніць, што ні павернісься.* Гарадок Міласл. *Ні нада етыга 'бкутываньня, ён і так цёпла адзетый.* Палуж Краснап.

АБКУ́ТЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Ахутваць, ацяпляць. *З тыя нядзелі пачну абкутывыць мыладыя дрэвы, ато яны зьгінуць узімку.* Каробчына Мсцісл. *Што ты його так абкутывыіш, ны дворі ж цяплынь.* Маластоўка Краснап.

АБКУ́ТЫНЫЙ, *прым.* Ахутаны, захутаны. *Лог увесь абкутыный туманым.* Пірагова Мсцісл.

АБКУ́ТЫЦЦА, *дзеясл.* Захутацца, цёпла адзецца. *Я хачу абкутыцца як ныйцяплей, штоб ні зьмерзнуць.* Пірагова Мсцісл.

АБКЫЖУ́ШЫЦЬ, *дзеясл.* Ашальмаваць, абыграць у карты. *Ні садзіся зь ім іграць — ён цябе абкыжушыць!* Пірагова Мсцісл. *Абкыжушылі яго хлопцы ў вочка да грыша.* Юшкі Мсцісл.

АБКЫЛАЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Акалаціць, абтрэсці. *Абкылаціў вецір усі яблыкі сяньня ўночы.* Барысавічы Клім. 2. Абысці, абкалясіць. *Сьвет абкылаціла, ходзючы па лесі.* Б. Хутары Краснап.

АБКЫЛЫНТЫ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Абысці, шукаючы. *Абкылынтырыла ўсіх суседзяў, шукаючы ігнят, відна зьгінулі.* Пірагова Мсцісл.

АБКЫЛЯ́ДЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Абкалядаваць, абысці па чарзе. *Хадзіў — хадзіў, абкылядывыў ўсі двары — а няма рады! Нідзе ні знайшоў, чаго шукаў.* Пірагова Мсцісл.

АБКЫЛЯСІ́ЦЬ, *дзеясл.* Абкалясіць. *Ого! Так абкылясіць сьвет, як гэта зрабіў наш настаўнік, нішто сабе!* Дзіснакіта Мсцісл. *Абкылясіў я ўсі сьцежкі!* Пірагова Мсцісл. *Увесь сьвет абкылясіў і нідзе спакою ні знышоў.* Маластоўка Краснап.

АБКЫНЫПА́ЦІЦЬ, *дзеясл.* Абаткнуць шчыліны ў будынку. *Аўчарнік нада абкынызаціць мохум, ато памерзнуць ігнякі.* Бяседавічы Хоцім. *Хату нада было б абкыныпаціць, ды ўсё ўремя нет.* Краснаполле.

АБКЫПА́ЦЬ, *дзеясл.* Акапаць, выкапаць роў наўкол чаго-небудзь. *Абкыпаць капцы трэба, бо картошка зыцячэ.* Зарэчча Мсцісл.

АБЛАВА, -ы, *ж.* Аблава. *Сяньні ны ваўкоў аблава будзець, мы пойдзім клікунамі.* Хвёдараўка Краснап.

АБЛАВУХ, -а, *м.* Шапка з навушнікамі. *Аблавух надзень, бо вушы 'дмарозіш: мароз ны дварэ.* Белы Мох Мсцісл. *Ну, бяры свой тулуп, надзівай аблавух ды йдзі падабру.* Пірагова Мсцісл.

АБЛАВУХА, -і, *ж.* Аблавух. *Заячу шкурку купіў, аблавуху ізьдзелыю.* Мсціслаў.

АБЛАВУХІЙ, *прым.* Аблавухі, з адвіслымі, вялікімі вушамі. *Адзін шчанёнык аблавухій, а другей з стыячымі вушамі, як у выйка.* Пірагова Мсцісл. *Сьвіньня ты аблавухыя.* Слаўнае Мсцісл.

АБЛАВУША, -ы, *ж.* Белы польны [палявы] грыб. *Аблавуша — грыб уродзі гыварушык і апенік, спадыспыдзьдзя чорныя. Каровы яе ядуць.* Хвёдараўка Краснап.

АБЛАВУШКА, -і, *ж.* Памянш. ад аблавуха. *У яго харошыя шапка-аблавушка: накрыіць вушы, зывяжыць канцы пыд барадою і цёпла.* Арцёмаўка Міласл.

АБЛАЖНЫ, *прым.* Абложны [заложны]. *Дождж аблажны пычаўся, ні скора пірістаніць.* Барысавічы Клім.

АБЛАЖЫЦЬ, *дзеясл.* Аблажыць, зацягнуць хмарамі. *Дождж будзя, неба хмарамі аблажыла.* Горня Хоцім.

АБЛАЗІЦЬ, *дзеясл.* 1. Ліняць. *Увясну кожныя скаціна пачынаіць аблазіць.* Пірагова Мсцісл. 2. Блекнуць, траціць свой колер. *Твыя рубашка аблазіць: была красныя, а січас дзелыіцца нейкыя жоўтыя.* Журбін Бялынкав. 3. Аблазіць, усюды пабываць, абысці. *І дзелаць яму німа чаго, з ранку ўсі хаты аблазіць, а ў абедзьдзя ў другую дзярэйню трапіць.* Камароўка Крыч.

АБЛАІЦЬ, *дзеясл.* Аблаяць. *Ён мяне з апошніх слоў аблаіў, а за што — німайдама.* Барысавічы Клім. *Лепі ні чыпайсь ізь ім, ато аблаіць апошнім словам.* Каменкі Раснян.

АБЛАПІВЫЦЬ, *дзеясл.* Груба абдымаць, абхватваць [абхопліваць] рукамі. *Падыйшоў ён ды мяне і пычаў аблапівыць, а я яму па мордзе!* Пірагова Мсцісл.

АБЛАПЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Лапіць, прышываць латкі. *Разыдраў усю рубаху — цяпер нада аблаплівыць.* Пірагова Мсцісл.

АБЛАПЛІНЫЙ, *прым.* Залатаны. *Даў ён мне тулуп — увесь аблаплінэй, аж надзець стыдна.* Барысавічы Клім.

АБЛАПОШЫЦЬ, *дзеясл.* Абдурыць, ашукаць [і абабраць]. *Аблапошылі яны мяне, вось цяпер і выкручвайся.* Пірагова Мсцісл.

АБЛАТЫШЫЦЬ, *дзеясл.* Абламаць [і аббіць, абарваць (садавіну)]. *Кылыкалушу аблатышылі ўсю, ні веткі ні пакінулі.* Паўлавічы Клім.

АБЛАХЫЦЬ, *дзеясл.* Аблахаць, абхадзіць, аббегаць. *Аблахыў трі дзярэйні, шукаючы сабе падзёньнікаў. Увесь сьвет аблахыў, а шчасьця ні найшоў.* Слаўнае Мсцісл. *Лес аббегыіш, аблахыіш, а ці многа ягыд ныбярэш?* Мядзвёдаўка Краснап.

АБЛАЧЫНА, -ы, *ж.* Воблака, хмарка. *Увязі сена ў пуню, ато вунь аблачына йдзець!* Пірагова Мсцісл.

АБЛАЧЫНКА, -і, *ж.* Памянш. ад аблачына. *Здэцца і невялікыя аблачынка ныйшла, а дождж ладный.* Пірагова Мсцісл.

АБЛАШЧЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Задобрываць. *Ну, і пычалі яны яе аблашчывыць, каб іна мыўчала.* Затоны Раснян.

АБЛАШЧЫНЫЙ, *прым.* Аблашчаны. *Аблашчынэй хлопчык адразу ж заснуў.* Пірагова Мсцісл.

АБЛАШЧЫЦЦА, *дзеясл.* Прывыкнуць да рук, прыручыцца. *Карова аблашчылыся і стала рыхманыя.* Клімавічы.

АБЛАШЧЫЦЬ, *дзеясл.* Аблашчыць, прыручыць. *Нейкі сабака дзікі, але нічога — аблашчым, дык будзе добра стыражыць двор.* Янаўка Мсцісл.

АБЛЕГЦА, *дзеясл.* 1. Аблегчыся, абаперціся на локаць. *Аблёгся на руку, дый задумуўсь.* Брылёўка Краснап. 2. Зменшыцца, стухнуць [зляжацца]. *Агонь у кастры аблёгся.* Там жа. *Дай ты троха агню аблегца, а тады будзім сыжаць бульбу.* Паўлавічы Клім.

АБЛЕТ, -у, *м.* Аблет, пералетавалы ў кастры [штабелі] лес. *Я сабе аблету нарезыў.* Хвёдараўка Краснап.

АБЛЕТУВЫЙ, *прым.* Аблетавалы, пералетавалы. *Аблетувымі дрывамі добра тапіць печ — гырацъ яны надта добра.* Зоры Клім. *Гэтыя дровы аблетувыя, яны сухі, як порах.* Пірагова Мсцісл.

АБЛЕТУВЫЦЬ, *дзеясл.* [Аблетаваць], пералетаваць, пражыць лета. *Вось толькі аблетуім тут, а ўвосінь паедзім на Украіну.* Пірагова Мсцісл. *Дай нам аблетувыць, а ўвосінь у нас свой хлеб будзець — лягчэй будзіць.* Стары Дзедзін Міласл.

АБЛЕТЫК, -тка, *м.* [Аблетак], гадавалы бычок, цялушка [пералетак]. *Купіў я сабе аблетка-цёлычку, буду гадувацъ. Бычок-аблетык, а які вялікій!* Пірагова Мсцісл.

АБЛІГАЦЦА, *дзеясл.* Аблягацца, абапірацца локцямі. *Ні 'блігайсь так на стол, ато запэцкаісься.* Пірагова Мсцісл. *Як сталі на стол аблігацца, дык патуль аблігаліся, пакуль пулумалі.* Бяседавічы Хоцім.

АБЛІГЧАЦЬ, *дзеясл.* Аблягчаць, даваць палёгку. *Выпыўніный доўг аблігчаіць серца.* Слаўнае Мсцісл.

АБЛІЗАЦЬ, *дзеясл.* Аблізаць. *Абліжы ложку, калі кончыў есьць.* Затоны Раснян. *Карова 'блізала цялёнка.* Паўлавічы Клім.

АБЛІЗЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Аблізваць. *Есьць, смакуіць і пальцы аблізывыіць.* Арцёмаўка Міласл.

АБЛІК, -у, *м.* 1. Воблік, твар. *Аблік у яго, рыхтык у маткі.* Дубровіца Клім. *Нейкій у яго аблік ніпрыгожы: худый, замурзаный.* Асмолавічы Мсцісл. 2. Памылка ў ліку. *Тут ня йначы, як аблік! Ня можа быць, каб столькі було.* Пірагова Мсцісл. 3. Падлік. *Зьдзелылі аблік усей маёмасьці.* Палуж Краснап.

АБЛІНОВЫНЫЙ, *прым.* Абліноваы, лінованы. *Дай мне абліновыный бумагі два лісты.* Крычаў.

АБЛІНОЎКА, -і, *ж.* Планаванне [зямлі]. *Там ідзець абліноўка планыў.* Пірагова Мсцісл.

АБЛІНЫВАЦЬ, *дзеясл.* Аблінаваць, палінаваць. *Спычатку аблінывацъ нада, ато так крыва напішаш.* Пешкі Мсцісл.

АБЛІНЫК, -нка, *м.* Аблінак, верхні слой лыка. *Лыкі тоўстыя, дык я аблінкі зьняў.* Хвёдараўка Краснап.

АБЛІПАК, -пка, *м.* Тонкая, лёгкая сукенка. *Ні надзівай ты абліпка етыга, лепш ныпряні другую.* Клімавічы.

АБЛІПНУЦЬ, *дзеясл.* Прыліпнуць, прыстаць да цела. *Трэба пыдкрухмаліць хустку, ато вельмі абліпае.* Паўлавічы Клім.

АБЛІТАЦЬ, *дзеясл.* Аблятаць, ападаць. *Лісьця з дрэў аблітаіць, восінь ужо.* Журбін Бялынкав. *А ў каршму йдзець, як мак зацьвітаіць, ‖ А з каршмы йдзець, як мак аблітаіць.* З нар. песні. Багацькаўка Мсцісл.

АБЛІЎ, -ву, *м.* Галалёд [абліваха]. *Сьлізка хадзіць: абліў ны дваре.* Ясень Краснап. *Ны дваре абліў, страшна хадзіць, можна пасьлізнуцца і нагу злумаць.* Арцёмаўка Міласл.

АБЛІЦЦА, *дзеясл.* Абліцца, узліць на сябе вады. *Асьцярожна пі, ато абліцца можна.* Паўлавічы Клім. *Нігыдзяй, нявестка, нігыдзяй,* ‖ *Пу ваду пышла — аблілась,* ‖ *Пы цяпельца пышла — абпіклась.* З нар. песні. Слаўнае Мсцісл.

АБЛІЦЬ, *дзеясл.* Абліць. *Нажні сныткі сьвіньням, пысячы яе ды кардохлімі аблі, ато так есьці ня будуць.* Арцёмаўка Міласл.

АБЛІЧАЦЬ, *дзеясл.* Аблічваць, ашукваць. *Вот глядзі ж ты, увачу аблічаіць: мне нада сорак пяць рублёў, а ён даець трыццыць восім.* Клімавічы.

АБЛІЧВЫНЬНЯ, -я. *н.* Аблічванне, недаплата пры разліку. *Ня йдзі ў тую краму: там усягды абман, аблічваньня і абважваньня.* Юшкі Мсцісл.

АБЛІЧКА, -і, *ж.* Памылка ў ліку. *Не йначы, як аблічка выйшла, тут будзіць болі, як ты налічыла.* Пірагова Мсцісл. *У грошых была аблічка: ня столькі далі, як трэба.* Дзіснакіта Мсцісл. *У мяне выйшла аблічка, як я здачу палучала.* Гусаркі Клім. *У грошых была аблічка: ні столькі далі, як трэба.* Б. Хутары Краснап.

АБЛІЧЧА, -а, *н.* Аблічча, твар, воблік. *Ты яе ведыіш! Тыкая маленькыя, з аблічча чырнявыя.* Старае Сяло Мсцісл. *Пы абліччу відаць, што чылавек ня руській.* Гарбавічы Касцюк. *Па абліччу здаецца й знакомый, але баюсь, каб ні ўкліпацца.* Куркаўшчына Мсцісл.

АБЛІЧЫВАЦЬ, *дзеясл.* Аблічваць, недадаваць пры разліку. *Глядзі ж ты не аблічывай яе, бо я ўсе́дно узнаю.* Юшкі Мсцісл.

АБЛІЧЫНЫЙ, *прым.* 1. Аблічаны, абмануты пры аплаце. *Зьбіты з панталыку, аблічыный дзед ні знашоў, што скызаць.* Юшкі Мсцісл. 2. Палічаны, пералічаны. *Етыя снапы ўжу аблічыныя, іх ні лічы.* Арцёмаўка Міласл.

АБЛІЧЫЦЦА, *дзеясл.* Памыліцца [у ліку], няверна палічыць. *Знаць, аблічылыся я, як снапы лічыла, во і вышла многа.* Юшкі Мсцісл.

АБЛІЧЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Аблічыць, недадаць грошай. *Цябе аблічылі, трёх капеік ні дыдалі.* Палуж Краснап. 2. Выявіць у твар [пазнаць па твару, абліччы]. *Сапрон выкраў у Матруны сала, і яго аблічылі.* Там жа. *Мыя баба злодзія аблічыла, таго што авёс ыкраў.* Сапрынавічы Мсцісл.

АБЛОГА, -і, *ж.* Неаранае поле. *Аблогу пашуць пысьля дажджу, каб было мягчэй.* Пірагова Мсцісл. *Нада ўзыраць аблогу.* Хвёдараўка Краснап. *Два гады таму назад во на етый аблозі расло жыта, як гай, а цяпер такоя харошыя места пустуіць.* Слаўнае Мсцісл. *Ны аблозі растуць кветкі.* Шумячы.

АБЛОГЫВЫЙ, *прым.* Аблогавы, запушчаны, нявораны (пра зямлю). *У тым баку ўсё аблогывыя палі.* Пірагова Мсцісл.

АБЛОГЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Аблогаваць, пуставаць, ляжаць нявoранай (пра зямлю). *Там у мяне на Кыбаньве* (назва поля) *аблогуіць дзесяціна.* Пірагова Мсцісл.

АБЛОЖНЫЙ, *прым.* 1. Аблoжны, зацяжны. *Калі б дождж, ды аблoжный, дык было б хырашо.* Гібалы Касцюк. *Дождж аблoжны на цельный дзень зырядзіў.* Дзіснакіта Мсцісл. *Аблoжныя хмара.* Там жа. 2. Запушчаны, нявораны (пра зямлю). *На тым полі была калісь-та грачыха, цяпер яно аблoжныя.* Пірагова Мсцісл.

АБЛОЖЫНА, -ы, *ж.* Аблога, запушчанае поле. *Есьць у мяне там аблoжына невялікыя, нада яе там пыдняць.* Пірагова Мсцісл.

АБЛОМАК, -мка, *м.* Зломак, кавалак чаго-небудзь. *Зысталісь адны абломкі.* Камароўка Крыч. *З абломкыў зьдзелыў кырваць.* Хвёдараўка Краснап.

АБЛОНА, -ы, *ж.* Роўнядзь, роўнае поле. *Ды самыя ракі тут тыкая аблона, як стол усё роўна.* Журбін Бялынкав. *Хлопцы паехылі ны нашлег на ’блону ў Чалый Лог.* Пірагова Мсцісл.

АБЛОНІНА, -ы, *ж.* Асобная аблона. *Вун аблоніна рысьцягнулыся шырокыя, як мора.* Пірагова Мсцісл.

АБЛОНЬ, -і, *ж.* Аблона, роўнае поле. *Зы дзярэўняю ў нас аблонь, а за ’блоньню відны храсты Амсьціслаўскіх царквей.* Пірагова Мсцісл.

АБЛОНЬНЯ, -я, *н.* Аблона, роўнядзь. *Глядзі, якоя тут аблоньня шырокыя — як вокам ськінуць!* Мацутаўка Раснян. *На ’блоньні, як вокам ахыпляла, ня было відна ні дзерыўца, ні кусьціка.* Пірагова Мсцісл.

АБЛУЗГІВЫЦЬ, *дзеясл.* Аблузгаваць, лузгаць [лузаць], лушчыць. *Дывай будзем аблузгівыць пасолю.* Канахоўка Клім.

АБЛУЗГЫНЫЙ, *прым.* Аблузганы [аблузаны], вылушчаны. *Ні бярі ты аблузгыных аряхоў, бярі ў шулупахі ды сам аблузгівый.* Пірагова Мсцісл.

АБЛУЗГЫЦЬ, *дзеясл.* Аблузгаць [аблузаць], ачысціць ад шалупайкі, аблупіць. *Аблузгый ты мне шалупаху з йіца.* Пірагова Мсцісл. *Я аряхі аблузгыла, можна сушыць.* Жалезніца Чэрык.

АБЛУКАВІЦЬ, *дзеясл.* Падмануць, абжуліць [абхітрыць]. *Ох, бачу я, што вы згыварыліся мяне аблукавіць! Трэба быць асьцярожным з вамі.* Пірагова Мсцісл.

АБЛУПЕЖЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Аблупіць. *Аблупежылі ліпу, іна й засохла.* Гербавічы Касцюк. 2. Абрабаваць. *Аблупежылі Хаіма*

*бандзіты да ніткі.* Дзіснакіта Мсцісл. 3. Жорстка пакараць [адлупцаваць]. *Бацька Янку аблупежыў, што цяпер сесьці ня можыць.* Вародзькава Чэрык.

АБЛУПІЦЬ, *дзеясл.* Аблупіць, зняць скуру, кару з дзерава. *Ветрам ліпу пулумала, нада на лыкі аблупіць.* Паўлавічы Клім. *Яму аблупі яечка і ў рот укладзі.* Канічы Касцюк. *Аблупій я кабылу ды прыдай скуру.* Пірагова Мсцісл.

АБЛУПЛІВАЦЬ, *дзеясл.* Аблупліваць, лупіць. *Казлоў* [грыбы казлякі] *так ні жараць, іх сьпірша аблуплюць.* Юшкі Мсцісл. *Ты аблуплівай сыравежкі ды лумай шапычкі, каб чарьвей ні було, глядзі.* Арцёмаўка Міласл.

АБЛУПЛІНЫЙ, *прым.* Аблуплены. *Дай яму яечка, ды яшчэ й аблупліныя.* Таташчына Мсцісл. *Ведыю я цябе, як аблупліныга!* Пірагова Мсцісл.

АБЛУШЧЫЦЬ, *дзеясл.* Аблузгаць [аблузаць]. *Аблушчы ты Юрку семкі!* Паўлавічы Клім.

АБЛЫКАТ, -а, *м.* Адвакат, абаронца. *Нада ўзяць харошыга аблыката на етыя дзела.* Шумячы. *Сьмела йдзі к етыму аблыкату: добрый зьдзялец зь яго.* Тур'я Краснап.

АБЛЫКЫЦЦА, *дзеясл.* Аблыкацца, выпіць залішне. *Аблыкыйсі гарелкі, чуць ны ныгах стаіць.* Паўлавічы Клім.

АБЛЫМАЦЬ, *дзеясл.* Абламаць, зламаць. *Нада вецьця з бярозы етый аблымаць, венікі будуць.* Палуж Краснап.

АБЛЫСЕЦЬ, *дзеясл.* Зрабіцца лысым. *Глядзіця, Цімох ужу аблысеў — лысіна на ўсю гылаву!* Арцёмаўка Міласл.

АБЛЫСІЦЬ, *дзеясл.* Пралысіць, зрабіць лысіну. *А йдзе цябе аблысілі етык — гылыва, як калена?* Зімніца Клім.

АБЛЫТАЦЦА, *дзеясл.* Аблытацца, заблытацца. *Пясклёнык аблытаўсі пянькою, зьнімі, ато хадзіць ня можыць!* Клімавічы.

АБЛЫТАЦЬ, *дзеясл.* Заблытаць, ашукаць, задурыць галаву. *Сяньні ў крамі мяне аблыталі.* Клімавічы.

АБЛЮБУВАНЫЙ, *прым.* Аблюбаваны, улюбёны [каханы]. *Мой аблюбуваный нешта доўга ды мяне ня прыходзіць.* Лешчынка Мсцісл.

АБЛЮБУВАЦЬ, *дзеясл.* Аблюбаваць, нагледзець, насачыць. *Аблюбуваў я сабе дубка на вось, а нехта ўзяў ды раней за мяне сьсек яго.* Бродкі Крыч.

АБЛЯПЫНЫЙ, *прым.* Абляпаны, запэцканы. *У цябе адзаду ўвесь кажух гразёю абляпыный.* Шавялёўшчына Мсцісл.

АБЛЯПЫЦЬ, *дзеясл.* Абляпаць, запляміць. *Дзеці ўсю сьцяну абляпылі гразёю.* Паўлавічы Клім.

АБЛЯРВІЦЦА, *дзеясл.* Страціць гонар чэснай жанчыны. *Добрыя была баба, але во глядзі ты, аблярвілыся біз мужыка.* Крывы Лес Шумяц.

АБМАЗАЦЬ, *дзеясл.* Абмазаць. *Абмазалі сьцены ў хаце глінаю, каб узімку цяплей было.* Сохана Мсцісл.

АБМАЗВЫНЬНЯ, -я, *н.* Абмазванне, абмазка [працэс]. *Што ета за 'бмазвыньня такоя? — нада лучшы абмазывыць!* Жалезніца Крыч.

АБМАЗВЫЦЬ, *дзеясл.* Абмазваць, пакрываць слоем гліны ці чаго іншага. *Не забудзься вапны купіць, бо сад пыра абмазвыць.* Мсціслаў.

АБМАЗГУВАЦЬ, *дзеясл.* Абмазгаваць, абмеркаваць, абдумаць. *Етыя дзела абмазгуваць нада.* Мсціслаў.

АБМАЗКА, -і, *ж.* Абмазка, рашчына [раствор] з вапны і гліны. *Зьдзелый абмазку лі саду!* Мсціслаў.

АБМАЗЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Абмазваць. *Нада сад абмазывыць, ды вапны німа.* Слабада Раснян.

АБМАЗЫЦЦА, *дзеясл.* Абмазацца, запэцкацца. *Абмазыўся ў сажу, што вачэй ні знаць.* Белы Мох Мсцісл.

АБМАЛЕВЫНЫЙ, *прым.* Абмалёваны, ілюстраваны [упрыгожаны малюнкамі, размаляваны]. *Кніжка ўся абмалёвына.* Дзіснакіта Мсцісл.

АБМАЛЕЎКА, -і, *ж.* Афарбоўка. *На вокнах абмалёйка пы'блазіла, нада наныва мыліваць.* Белы Камень Бялынкав. *У етый птушкі дужа прыгожыя абмалёйка: усі цьвяты на ёй.* Пірагова Мсцісл.

АБМАЛОТКА, -і, *ж.* Малацьба, абмалочванне, аббіванне аб што-небудзь. *На гумне цяпер ідзець абмалотка зірнят ны пасеў.* Пірагова Мсцісл.

АБМАЛОТКІ, -аў, *мн. л.* 1. Канец малацьбы, дамалоткі. *У нас сяньні абмалоткі: усё ўжо змылацілі.* Хвёдараўка Краснап. 2. Горшы гатунак зярнят [зерня] пасля малацьбы. *Харошыя жыта будзіць на хлеб, а сьвіньням абмалоткі зьмелім.* Слаўнае Мсцісл.

АБМАН, -у, *м.* Абман [падман], ашуканства. *Абманым далёка ні заедзіш.* Белы Камень Бялынкав.

АБМАНІВЫЦЬ, *дзеясл.* Абманьваць, ашукваць [падманваць]. *Не абманівый ты старую матку, скажы ёй праўду.* Пірагова Мсцісл. *Ня слухай ты яго, ён абманівыць умеіць.* Камароўка Крыч.

АБМАНІНЫЙ, *прым.* Абманены [падманены], чалавек, якога абманулі [падманулі]. *Ён ужо раз абманіны, дык цяперя ні паверыць.* Пірагова Мсцісл.

АБМАНІЦЬ, *дзеясл.* Абмануць [падмануць], ашукаць. *Ён хацеў мяне абманіць, ды ні ўдалося: я здыгыдаўся.* Іванаўка Хоцім. *Ты мяне ні абманіш!* Краснаполле. *Абманіў ён мяне, а я й паверыла.* Пірагова Мсцісл.

АБМАНШЧЫК, -а, *м.* Ашуканец [падманшчык]. *Ня верь ты етыму абманшчыку, абманіць ён цябе.* Белы Камень Бялынкав.

АБМАРОЗІЦЬ, *дзеясл.* Абмарозіць, прымарозіць [падмарозіць]. *Пакуль зайшоў у пуню, дык адно вуха абмарозіў.* Белы Камень Бялынкав.

АБМАРОЧЫЦЬ, *дзеясл.* Абмарочыць, абдурыць [задурыць]. *Дзеці за цэлый дзень мне гылаву абмарочылі.* Мсціслаў.

АБМАРЫНЫЙ, *прым.* Абмараны, запэцканы. *Прыехаў ён абмарыный з гылавы да ног і зываліўся спаць; знаць, дужа зымарыўся.* Іванаўка Хоцім.

АБМА́Х, -у, *м.* Хіба, пудла [промах], памылка. *Хацеў пупасьці ў голаву, ды зрабіў абмах.* Пірагова Мсцісл.

АБМА́ХІВЫЦЦА, *дзеясл.* Абмахвацца, адганяць мух, камароў. *Як ныпалі ны нас кымары, дык мы абмахівыліся, абмахівыліся, і рады німа, хоць ты гвалт крычы.* Вародзькава Крыч.

АБМА́ХІВЫЦЬ, *дзеясл.* Абмахваць, махаць чым-небудзь, праганяючы мух. *Абмахівый ты яе, каб мухі ня лезьлі.* Асмолавічы Мсцісл.

АБМАХНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Памыліцца, спудлаваць [прамахнуцца], не папасці ў цэль. *Выстраліў я раз — абмахнуўсь, а другі — зноў! Што за ліха?* Пірагова Мсцісл. *І нада ж мне было абмахнуцца і скызаць такую нялепысьць!* Слаўнае Мсцісл. *Глядзі ні абмахнісь у выбары!* Кокатава Мсцісл.

АБМА́ХНУЦЬ, *дзеясл.* Абысці. *Хадора ўвесь лес абмахнула карову шукаўшы.* Хвёдараўка Краснап.

АБМА́ЦЫНЫЙ, *прым.* Абмацаны, абшчупаны. *Іна ўся абмацына чужымі рукамі.* Пірагова Мсцісл.

АБМА́ЦЫЦЬ, *дзеясл.* Абмацаць, абшчупаць. *Ён кожны яблык абмацыць, а тады ўжо вазьмець есьць.* Тур'я Чэрык. *Дай я перві абмацыю, тады вазьму есьці.* Пірагова Мсцісл.

АБМАЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Абмачыць, памачыць. *Постыўку абмачыла, праўшы плаццья.* Горкі Краснап.

АБМА́ШКА, -і, *ж.* Абмах, памылка [промах]. *Уцёк заіц! Абмашку я зрабіў: нада було адзаду зайці.* Пірагова Мсцісл.

АБМЕ́Н, -у, *м.* Абмен, спосаб гандлю тавар за тавар. *Ці згодзіўся б вінзавод узяць марожыную бульбу ў абмен ны здаровую?* Мсціслаў.

АБМЕ́НА, -ы, *ж.* Замена. *Вучні зрабілі абмену сваіх кніжак.* Сохана Мсцісл.

АБМЕ́Р, -у, *м.* 1. Абмер, вымерванне. *Пойдзем рабіць абмер зямлі — каморнік прыехыў.* Янаўка Мсцісл. *Далі зямлі па 'бмеру, колькі прышлося.* Хвёдараўка Краснап. 2. Недамер, ашукванне ў меры. *На етыя метры вялікі абмер лавычнікі дзелыюць.* Мсціслаў. *Там у іх абмер вышаў: запісалі дзесіць дзісяцін, ажно там усі пітнаццыць.* Пірагова Мсцісл.

АБМЕ́РВАЦЬ, *дзеясл.* Абмерваць, рабіць абмерванне. *Заўтра прыйдзя 'граном, хутары абмерваць.* Нашкавічы Мсцісл. *Нада було б ісьці пыхаць, а тут кажуць, што раньшы абмервыць будуць, а тады ўжо пыхаць, дык хто яго ведыіць.* Гусарка Клім.

АБМЕ́РІНЫЙ, *прым.* Абмераны, вымераны. *Калхосныя поля ўжо абмерінія.* Высокі Бор Краснап.

АБМЕ́РІЦЬ, *дзеясл.* Абмераць, вымераць. *Нада нам шнуры нашы абмеріць, мне кажыцца, што ў цябе шырэй троху.* Гібалы Касцюк. *Абмерілі бірвяно — ні хвытаіць.* Хвёдараўка Краснап.

АБМЕ́РЛЫЙ, *прым.* Абмерлы, непрытомны. *Прыбег я к ёй, ажно ляжыць іна абмерлыя і ня дышыць.* Пірагова Мсцісл.

АБМЕ́ЦІЦЬ, *дзеясл.* Адзначыць. *Усю дарогу абмеціў вугалькам пу бярёзкых.* Маластоўка Краснап.

АБМІ́Н, -у, *м.* Абмен, абход ці аб'езд. *А мы пойдзем у абмін, каб нас ніхто ня ўгледзіў.* Іванаўка Хоцім.

АБМІНА́ЦЬ, *дзеясл.* Абмінаць, не заязджаць ці не заходзіць па дарозе, праходзіць міма, мінаць. *Я, як ехыў, думаў абмінуць тваю хату, аж думыю — як ён там жыве? Нада пыглядзець.* Пірагова Мсцісл.

АБМІНУ́ТЫЙ, *прым.* Абойдзены, прамінуты. *Усю дзярэўню абыйшлі, толькі адзін двор зыстаўсь абмінутый.* Юшкі Мсцісл.

АБМІНУ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Размінуцца, разысціся, раз'ехацца. *А йдзе мы з табой абмінуцца маглі?* Лютня Мсцісл. 2. Абысціся без чаго-небудзь. *Абмінёмся сяньні й бяз хлеба.* Белы Камень Бялынкав.

АБМІНЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Абмяняць, памяняць. змяняць. *Я купіў кыня, але думаю абміняць на другога: не пыдыбаецца ён мне.* Лешчынка Мсцісл.

АБМІРКУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Абмеркаваць, абдумаць. *Нада ўсёю дзяреўнюю абміркуваць, ці браць нам скот ны пупас, ці не.* Арцёмаўка Мсцісл.

АБМІЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Абмячаць, значыць, адзначаць [ставіць знакі]. *Пашлі мужукі абмічаць лес для высіку.* Хвёдараўка Краснап. *Ты абмічай етыя дрэвы, што будзім высікаць.* Нашкавічы Мсцісл.

АБМІШУ́ЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Абмішульваць, ашукваць, абманваць [падманваць, абдурваць]. *Змова паміж імі ёсьць, няйначый — абмішулівыюць людзей.* Паўлавічы Клім.

АБМІШУ́ЛІЦЦА, *дзеясл.* Памыліцца, даць сябе ашукаць. *Як гэта я мыгла абмішуліцца так, купляўшы етую карову?* Старае Сяло Мсцісл.

АБМІШУ́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Ашукаць, абмануць [падмануць, абдурыць]. *Ён шпец абмішуліць каго-небудзь.* Навасёлкі Мсцісл. *Цыган цібе ўраз абмішуліць.* Хвёдараўка Краснап.

АБМІШЭ́НІЦЦА, *дзеясл.* Не папасьці ў цэль, спудлаваць, прамахнуцца. *Стрыляў, ды абмішэніўсь — ні пупаў у цэль.* Хвёдараўка Краснап. *Стрэліў першы раз — абмішэніўсь, у другі раз — ныпувал убіў.* Студзянец Касцюк.

АБМУ́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Нацерці, намуляць мазоль. *Чаго ты хрымаіш? Ды нагу абмуліў ботым, хадзіць ні магу.* Мсціслаў.

АБМУ́РЗЫНЫЙ, *прым.* Абмурзаны, замурзаны, запэцканы. *Мой ты сынок маленькій, якій ты абмурзыный, кыравый, хадзі я цябе хуць памыю!* Пірагова Мсцісл.

АБМУ́РЗЫЦЦА, *дзеясл.* Абмурзацца, замурзацца, запэцкаць твар. *Дзе ж ты ета, сынок, абмурзыўся так, што й вачэй ні знаць? Ідзі памыйся хутчэй!* Гусарка Клім.

АБМУ́ТКІ, -так, *мн. л.* Асадак муці на дне пасудзіны. *Што тут піць? Адны абмуткі зысталісь.* Каробчына Мсцісл.

АБМЫКНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Абмакнуць, памачыць. *Абмыкні мне пяро ў чарніла.* Мсціслаў.

АБМЫ́ЛАК, -лка, *м.* Змылены кавалак

мыла. *Вазьмі на рэчку абмылак, бо вялікі кусок упусьціш чысамі.* Мсціслаў.

АБМЫЛАЦІЦЬ, *дзеясл.* Абмалаціць. *Сяньні мы да сьвету капу абмылацілі.* Бобрыкі Мсцісл.

АБМЫЛІВАНЫЙ, *прым.* Абмаляваны, размаляваны фарбамі. *Дзіцёнык прынёс абмыліваныя карцінкі з школы.* Пірагова Мсцісл. *Ідзі ў канец дзярэўні, там будзіць хата, 'бмыліваныя акеньніцы, там ён жывець.* Канахоўка Клім.

АБМЫЛІВАЦЬ, *дзеясл.* Абмаляваць, абрысаваць [расфарбаваць]. *Абмалюй ты мне, які ён з сябе аблічам.* Пірагова Мсцісл.

АБМЫЛІЦЦА, *дзеясл.* Памыліцца, зрабіць памылку. *Абмыліўся я, ня тое скызаў, што хацеў.* Юшкі Мсцісл.

АБМЫЛКА, -і, *ж.* Памылка. *Тут вышла абмылка, нада яе пыправіць.* Паходавічы Чэрык. *Невялікыя абмылка ў мяне палучылась, але яе можна яшчэ пыправіць.* Юшкі Мсцісл.

АБМЫРАЦЦА, *дзеясл.* Абмарацца [запэцкацца], забрудзіцца. *Мамка, ідзі, дзіцёнак абмыраўсі.* Мсціслаў.

АБМЫРАЧЭНЬНЯ, -я, *н.* Абмарачэнне, зацямненне мыслі [думкі]. *Нейкыя абмырачэньня ны мяне часым находзіць: гляджу пірад сабой і нічога ня віджу.* Асмолавічы Мсцісл.

АБМЫРОЧЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Абмарочваць, аглушаць, задурваць галаву [уводзіць у зман]. *Дос табе тут людзей абмырочывыць, ідзі ўдвору!* Гарбавічы Касцюк.

АБМЫРОЧЫНЫЙ, *прым.* Абмарочаны, непрытомны, псіхічна хворы [задураны]. *Ён, калі быў малый, зваліўся ў ваду і з тых пор ходзіць абмырочынэй.* Пірагова Мсцісл.

АБМЫРОЧЫЦЬ, *дзеясл.* Абмарочыць, аглушыць ударам. *Відна, яго стукнулі даўбешкыю пы гылаве, абмырочылі і тады абыбралі.* Пірагова Мсцісл.

АБМЫСОЛІНЫЙ, *прым.* Абмусолены, завэзганы тлушчам. *Дай мне чыстый хвартух, бо етый ўжо ўвесь абмысоліный.* Зяціца Мсцісл.

АБМЫСОЛІЦЬ, *дзеясл.* Абмусоліць, запэцкаць [завэзгаць] чым-небудзь тлустым. *Абмысоліла ты нейдзі свой хвартух — у плямых увесь.* Белы Камень Бялынкав. *Глядзі ж ні 'бмысоль ты сваё плацьце, як будзеш абедаць.* Пірагова Мсцісл.

АБМЫСЬЛІЦЬ, *дзеясл.* Абдумаць. *Етыя дзела нада 'бмысьліць.* Б. Хутары Мсцісл.

АБМЫХАЦЬ, *дзеясл.* Адмахаць, абысці. *Я сяньня вёрст сорак абмыхаў.* Асмолавічы Мсцісл.

АБМЫШЛЯЦЬ, *дзеясл.* Думаць [абдумваць], абмяркоўваць. *Ён стаў абмышляць аб сваёй паездкі ў Менск.* Старае Сяло Мсцісл. *Што ты абмышляіш?* Палуж Краснап.

АБМЯЖОВЫНЫЙ, *прым.* Абмежаваны, абведзены мяжою. *Поля абмяжовына.* Дзіснакіта Мсцісл. *Поля абмяжовыныя.* Палуж Краснап.

АБМЯКНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Абмокнуць. *Дождж такі вялікі йдзець, абмяк я ўвесь чыста.* Пірагова Мсцісл. 2. Спалохацца. *Як скызалі яму ета, дык ён абмяк.* Хвёдараўка Краснап.

АБМЯНІЦЬ, *дзеясл.* Абмяняць, зрабіць абмен. *Абмяніця мне ету кніжку, іна дужа пырваныя.* Сохана Мсцісл.

АБНАГЛЕЦЬ, *дзеясл.* Абнаглець, зрабіцца наглым, нахабным. *Ваўкі сёліта абнаглелі: пы нычам у самую дзярэўню прыходзяць.* Белы Мох Мсцісл.

АБНАДЗЕІНЫЙ, *прым.* Абнадзееny, запэўнены. *Па'бішчаў я яму, ён і пашоў ад мяне абнадзеіный.* Юшкі Мсцісл.

АБНАДЗЕІЦЬ, *дзеясл.* Абнадзеіць, падаць надзею, упэўніць. *Абнадзеіў ты мяне, што сяньні грошы будуць, ажно німа.* Мсціслаў.

АБНАДЗЕЙВЫЦЬ, *дзеясл.* Абнадзейваць, падаваць надзею, упэўніваць. *Абнадзейвылі яны, што ўсё будзець добра, аж вот як вышла.* Юшкі Мсцісл.

АБНАСІЦЦА, *дзеясл.* Знасіць усю адзежу, абадрацца. *Абнасіўсь я ўвесь, нырпянуць нечыга.* Шамава Мсцісл.

АБНАСІЦЬ, *дзеясл.* Абнасіць, панасіць троху [крыху] новую рэч. *Абнасіў троху свае боты, дык нічога, а новыя дужа ногі мулялі.* Гусарка Клім.

АБНАЧЫЦЦА, *дзеясл.* Заначавацца. *Ехаў, ехаў ды прыйшлося ў лесе абначыцца — коні прысталі саўсім.* Краснаполле.

АБНАШЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Абношваць, пачынаць насіць новую адзежу [і абгароджваць]. *Надзівай ты свае боты новыя, нада ж іх абнашывыць пычаць, ато й будуць так стыяць?* Журбін Бялынкав.

АБНЕСЕНЫЙ, *прым.* Абнесены, агароджаны. *Тодар добры гыспыдар: і будынак у яго добры, і сад абнесен тынам, усё ў пырадку.* Сохана Мсцісл.

АБНЕСЬЦЬ, *дзеясл.* 1. Абнесці. *Кылі гарыць хата, нада абнесьць хлебым сьвятэй Агаты, дык далей агонь ня пойдзіць.* Мсціслаў. 2. Абнесці загародаю, абгарадзіць. *Я абнёс чыстаклётым.* Хвёдараўка Краснап.

АБНОВА, -ы, *ж.* Абнова [абноўка], новая адзежа, рэч. *Абнову справіў сабе хлопец — пінжак чорный.* Дзіснакіта Мсцісл. *Глядзі, ікая ў яе абнова.* Палуж Краснап.

АБНОЖЫЦЦА, *дзеясл.* Натаміць ногі, прыстаць у хадзьбе. *Ня дзіва, што конь абножыўсь — цельный дзень біз аддышкі ездзім.* Палуж Краснап.

АБНОСАК, -ска, *м.* Неданосак, зношаная адзежына. *Малэя дзеці абноскі старшых носяць.* Арцёмаўка Міласл. *Быў у мяне абносык-пінжачок, дык я 'ддаў яму — ніхай носіць.* Барысавічы Клім.

АБНЫКАВЕННА, *прысл.* звычайна. *Абныкавенна мы ні так дзелыім.* Маластоўка Краснап. *Абныкавенна ён прыходзіць двору пысля шасьці гадзін вечыра, а сяньні штота яго нет.* Пірагова Мсцісл.

АБНЫШПАРЫЦЬ, *дзеясл.* Абшнырыць, абшукаць, абгледзець [абшнырыць]. *Увесь лес абабегыла, абнышпарыла — дзісятык грыбоў нышла.* Белы Камень Бялынкав.

АБНЮХАЦЬ, *дзеясл.* Абнюхаць. *Сыбака абнюхаў пень і пабех далей у лес.* Белы Камень Бялынкав.

АБНЯСЬЦІ [абнесць], дзеясл. Абнесці, абвясці наўкол, абкружыць. *Я думаю сад чыстаклётым абнясьці.* Маркаўка Хоцім. *Абнясі, татухна, двор рякою, ‖ Ня пусьці, татухна, быярый на двор.* З нар. песні. Зарэчча Мсцісл.

АБНЯЦЦА, дзеясл. Абняцца. *Чыкай, ні валі, дай мне добра абняцца.* Сапрынавічы Мсцісл.

АБНЯЦЬ, дзеясл. 1. Абняць. *Маліц дзеўку абняў.* Мсціслаў. *Ік абняў я яго упол, дык зваліў атразу.* Сапрынавічы Мсцісл. 2. Захапіць. *Абніла мылыйца ды цёмныя ночка.* З нар. песні.

АБО, злуч. Або, ці. *Зайдзі ты ды мяне, або я ды цябе зайду.* Студзянец Касцюк. *Або пан, або прыпаў!* Папоўшчына Мсцісл. *Або грай, або грошы аддай.* Мсціслаў.

АБОБРЫНЫЙ, прым. Абабраны, абрабаваны. *Якраз жа на тую ноч пабылі ў яго зладзеі, і зыстаўсь ён, як ліпка, абобрыный.* Пірагова Мсцісл.

АБОДВЫ, -ых, ліч. Абодва, двое. *Іх два браты і абодвы ны зямлі работыюць.* Старае Сяло Мсцісл. *Абодвы вёдры цякуць.* Гарбавічы Касцюк. *Яны абодвы прыходзілі ды цябе.* Сохана Мсцісл.

АБОДЗЬВЫ, -ух, ліч. Абодвы. *Пыдсячы дрэва з абодзьвух бакоў.* Пірагова Мсцісл.

АБОЖ, прысл. Хіба, няўжо. *Абож ты ня ведыіш, што Кірюха з Масквы прыехыў?* Куравічы Мсцісл. *Абож я ведаю, што ў цябе там робіцца.* Бродкі Крыч.

АБОЗ, -а, м. Рад [гуж] фурманак. *У тэхнікум цэлым абозым дровы вязуць.* Мсціслаў.

АБОРА, -ы, ж. 1. Абора, хлеў. *Зыгані ты скот у абору.* Сутокі Мсцісл. 2. Абора, вяроўка ў лапцях. *Мыя абора парвалысь, і лапыць спаў.* Лабаноўка Клім. *Зьвій-ка ты, тат, абору, ато німа чым лапця пірымытаць!* Пірагова Мсцісл.

АБОРАК, -рка, м. Невялікі лужок на полі, наўкол якога ралля. *У аборках яшчэ выда, хоць сьнегу ўжо й німа.* Куркаўшчына Мсцісл.

АБОРІНА, -ы, ж. Асобная абора. *Перацёрлась аборіна ў лапці, нада новую віць.* Пірагова Мсцісл.

АБОРКА, -і, ж. 1. Памянш. ад абора *Зьвіў я сабе аборкі ў лапці. Аборкі ў мяне пырваліся.* Палуж Краснап. 2. Тонкая вяровачка. *Аборка ляжыць у клеці, прінясі яе сюды, прівізаць нада.* Касцюковічы. *Смурыжу аборкыю бутылку, ніяк ні пірясмурыжу.* Горкі Краснап. 3. Аборкі, прышытыя ў нізе спадніцы. *Я люблю, каб спадніца зьверьху была вузкыя, а ўнізу была прішыта аборка, усё роўна, як звон у цэркві.* Слаўнае Мсцісл.

АБОРЫК, -рка, м. Аборак, нявораная лагчына сярод раллі. *Гэты аборык запушчаны на сенажаць.* Затоны Раснян. *Коні пасуцца ў аборку.* Кокатава Мсцісл. *Сёліта ўсі аборкі вадою заплулі, трыва будзіць быльшая.* Пірагова Мсцісл.

АБОРЫЧЫК, -чка, м. Памянш. ад аборак. *Схадзі ты, дзетка, скасі тэй аборычык у ярі!* Пірагова Мсцісл.

АБОРЫШ, -а, м. Пярэчышчак, пласт сена. *Янка сьпірша пазьбівай сухоя сена ў аборышы, а тады пычаў кідаць на воз.* Куляшоўка Клім.

АБОЧЫНА [аббочына], -ы, ж. Абочына, сцежка, край дарогі. *Пысярод дарогі йшчэ сьнег ляжыць, а абочынай ужо суха.* Сапрынавічы Мсцісл.

АБОЯ, абаіх, ліч. Абодва. *І іна і мужык яе — абоя любяць выпіць.* Старае Сяло Мсцісл.

АБПАЛІНЫЙ, прым. Апалены, апечаны. *Выскачыў з агню ўвесь абпаліный, чуць ні згарэў.* Пірагова Мсцісл.

АБПАЛІЦЬ, дзеясл. Асмаліць. *Сяньні яшчэ кыбына нада абпаліць.* Асмолавічы Мсцісл.

АБПАРІВЫЦЬ, дзеясл. Абпарваць, запарваць. *Вар гатоў, дывай жлукта, будзім бяльлё абпарівыць.* Юшкі Мсцісл.

АБПАРІК, -рка м. Абпарак, венік, запараны ў гарачай вадзе. *Вазьмі абпарік ды пыдмяці хату.* Хвёдараўка Краснап.

АБПАРІНЫЙ, прым. [Спараны, запараны, вараны]. *Я люблю есьці боб абпаріный — тады ён смашный.* Пірагова Мсцісл. *У чугунку там стаіць боб абпаріный, вазьмі ды еж.* Іванаўка Хоцім.

АБПАРІЦЦА, дзеясл. Апарыцца, абварыцца гарачаю вадою. *Ускачыў ён няўмысьлі ў цугун з варам, ну і абпаріўся — уся кожа з нагі зьлезла.* Пірагова Мсцісл.

АБПАРІЦЬ, дзеясл. Апарыць. *Руку варым абпарíла.* Затоны Раснян.

АБПЕНІЦЦА, дзеясл. Абпеніцца [пакрыцца пенаю], спацець. *Пы дарогі бальшэя выбоіны, дык коні абпенілісь, пакуль пріехылі.* Асмолавічы Мсцісл.

АБПЕНІЦЬ, дзеясл. Абпеніць, нагрэць [загнаць] каня да пены. *Як ты ета ехаў, етык кыня абпеніў?* Куляшоўка Клім.

АБПІКАЦЦА, дзеясл. Абпякацца, абагравацца, саграваццa. *Стаў абпікацца з марозу ў цёплуй хаце.* Палуж Краснап.

АБПЛІСКАЦЬ, дзеясл. Абпляскаць, заплюхаць; напляскаць па твары. *Я думыю абпліскаць яго хырашэнька па лічыку, штоб ён ні дражніў мяне.* Слаўнае Мсцісл.

АБПЛЯМІЦЦА, дзеясл. Запляміцца, запэцкацца. *Уся мыя шубка пад дожджам абплямілась.* Пірагова Мсцісл. *А йдзе ета ты так абплямілась уся?* Паходавічы Чэрык.

АБПЛЯМІЦЬ, дзеясл. Запляміць, запэцкаць. *Ідзе ж ты плацьця так абпляміла? Глядзі што пы траве кычалыся нейдзе!* Пірагова Мсцісл.

АБПОЙ, -ю, м. Абпой [абпойванне]. *Залучылі ды сябе хлыпца, і пачаўсь абпой!* Старае Сяло Мсцісл. *З самыга раньня пычаўсь у іх абпой.* Краснаполле.

АБПОЙКА, -і, ж. Абпой [абпойванне]. *У Якіма другей дзень абпойка ідзець.* Маластоўка Краснап.

АБПЭЦКЫНЫЙ, прым. Абпэцканы, запэцканы. *Чаго ета ў вяпрука ўвесь лыч абпэцканый у крыві?* Пірагова Мсцісл. *Уся кніжка твыя абпэцкыныя, дзе ты пасьпеў яе абпэцкыць?* Палуж Краснап.

АБПЭЦКЫЦЦА, дзеясл. Абпэцкацца, запэцкацца. *Пакуль печку вытапіла, дык уся абпэцкылась.* Затоны Раснян. *Асьцярожна тут, каб ні абпэцкыцца.* Крывы Лес Шумяц.

АБПЭЦКЫЦЬ, *дзеясл.* Абпэцкаць, запэцкаць. *А ну цябе, абпэцкыў ты мяне, лепш ба я ні брала цябе на рукі*! Пірагова Мсцісл. *Наша Ануля ела бульбу і ўвесь твар абпэцкыла.* Дзіснакіта Мсцісл.

АБПЯЧЫ [абпеч], *дзеясл.* Апячы. *Абпёк ён усё ліцо сабе.* Пірагова Мсцісл.

АБПЯЧЫСЬ [абпечца], *дзеясл.* Апячыся. *Ня лезь туды, бо абпячэсься!* Канахоўка Клім.

АБРАВІТА, *прысл.* Абавязкова, няўхільна. *Абравіта ўсё будзіць зьдзелына, кылі я скызаў.* Гірэевічы Клім.

АБРАДЗІНІЦЦА, *дзеясл.* Нарадзіць дзіця. *Ёй ужо прышоў час абрадзініцца.* Палуж Краснап. *Мыя жонка 'брадзінілась — сына прывіла.* Сапрынавічы Мсцісл.

АБРАДЗІЦЦА, *дзеясл.* Дамовіцца, згаварыцца. *Я з Іваным абрадзілісь па дровы ехаць.* Асмолавічы Мсцісл. *Яны абрадзілісь нычываць умесьці.* Палуж Краснап.

АБРАДЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Абрадавацца, усцешыцца. *Я так абрадывылась, як цябе стрэціла, што скызаць ні магу.* Галкавічы Мсцісл. *Вот жа ён абрадуіцца, калі ўвызнаіць ета*! Гірэевічы Клім.

АБРАДЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Абрадаваць, усцешыць. *Купіў розных гасьцінцаў, каб абрадывыць сваіх дзяцей.* Сохана Мсцісл.

АБРАЗ, -а, *м.* Абраз, вобраз. *У хаце ў іх вісіць у куце вялікі абраз.* Вародзькава Крыч. *Увесь кут у хаце ўвубраный у абразы.* Пірагова Мсцісл.

АБРАЗ, *прысл.* Зараз, той хвіліны [у момант]. *Пыдажджы ты мяне, покі я зьбегыю двору, я абраз зьвярнусь*! Гірэевічы Клім.

АБРАЗА, -ы, *ж.* Абраза. *Ета ж абраза — нызываць чылавека здраднікым, такея абразы сьцярпець нільзя*! Слаўнае Мсцісл. *Длі мяне будзіць абраза, калі ты ні зойдзеш ды мяне ў хату.* Паходавічы Чэрык.

АБРАЗІК, -а, *м.* Памянш. ад абраз. *Дзе ты купіла етый абразік? Ды там нейкыя жанчына прыдаець усю бажніцу.* Мсціслаў. *Павесь ты етый абразік у кут.* Гарцуеўка Краснап.

АБРАЗІЦЦА, *дзеясл.* Абразіцца [пакрыўдзіцца]. *Не кажы так, дзеткі, ато чылавек абразіцца.* Лабаноўка Клім. *Чаго ты ны мяне абразіўся? Я ж табе нічога такога ні скызаў.* Залесавічы Крыч.

АБРАЗІЦЬ, *дзеясл.* Абразіць. *Нада ж так чылавека абразіць нізашта!* Нашкавічы Мсцісл. *Абразіў ты мяне етым! Ці ж я горшы за другіх, што ты грэбуіш мною.* Журбін Бялынкав.

АБРАЗОВЫНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Абразованасць, адукаванасць, выхаванасць. *Ён чылавек з абразовынысьцю, ні прыпадзець.* Маластоўка Краснап.

АБРАІЦЬ, *дзеясл.* Параіць [нараіць]. *Людзі абраілі мне жонку — век буду помніць, як людзей слухаць!* Гірэевічы Клім. *Абрай ты мне, дзе купіць кыня.* Вярбоўка Раснян.

АБРАКОВЫНЫЙ, *прым.* Забракованы [выбракаваны]. *Мой конь абраковыны: камісія прызнала нягодным.* Мсціслаў.

АБРАКУВАЦЬ, *дзеясл.* Забракаваць, прызнаць нягодным. *Нашых коній абракувалі, кажуць: ні нада такіх.* Маравілле Касцюк.

АБРАМ, -а, *м.* Уласнае імя Абрам. *Сьцякольшчык Абрам аб'ехаў усі вёскі.* Міцькаўшчына Мсцісл.

АБРАМІЗІЦЦА, *дзеясл.* 1. Зрабіцца рамізнікам. 2. Паставіць самога сябе ў дрэннае становішча. *Абрамізіўся ты з сваёю гамонкаю.* Горняя Хоцім.

АБРАМІЗІЦЬ, *дзеясл.* Паставіць іншага ў дрэннае становішча, аканфузіць. *Абрамізіў ты дзевык сваімі песьнямі.* Галкавічы Мсцісл.

АБРАНЫЙ, *прым.* Выбраны. *Міхась абраны дзілігатым на акругову зьезд.* Белы Камень Бялынкав. *Усі, абраныя ў прызідзіум, займіця сваe месцы.* Мазалава Мсцісл.

АБРАНЬНЯ, -я, *н.* Абранне, выбары. *З бальшога абраньня ды выйшаў кікс* (нішто). Сохана Мсцісл.

АБРАСІЦЦА, *дзеясл.* Абрасіцца, змачыцца расою. *Выгыняў коні з жыта і ўвесь абрасіўся.* Сохана Мсцісл. *Праз луг ня йдзі, бо абросісься — рыса вялікыя.* Гірэевічы Клім.

АБРАСІЦЬ, *дзеясл.* Абрасіць, змачыць у расе. *Пысьля дожджыку пыхадзіў пы траве і абрасіў ногі.* Сохана Мсцісл.

АБРАЦЬ, *дзеясл.* Абраць, выбраць. *У сельсавет нада абраць добрых людзей, каб дзела маглі вясьці, як мае быць.* Лабаноўка Клім. *Трэба абраць дзілігатыў на зьезд, называйця каго!* Сохана Мсцісл.

АБРОК, -у, *м.* 1. Падатак. *За прыгоным пану плацілі аброк пылатном, зярном, жывёлай, альба працувалі: касілі сенажаць, жалі, палолі, пыхалі, гной вазілі.* Жалезніца Краснап. *Пану плацілі аброк зы пашу.* Сохана Мсцісл. 2. Ахвяраванне рэлігійнага парадку. *Каб ачуняла дзецю, дала аброк пыставіць Міколе сьвечку.* Жалезніца Краснап. *Дай аброк схадзіць у Кіяў пыкланіцца мышчам.* Сохана Мсцісл.

АБРОСЬЦЬ, *дзеясл.* Абрасці. *Позна стрыглі авечык, ні пасьпелі яшчэ абросьць, а тут захылыдала.* Дзягавічы Крыч. *Мой сыбака ў дзяды ўбіўся, увесь шышкамі аброс.* Барысавічы Клім.

АБРОТЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад аброць. *У каршме ня быў і кыня прапіў, || Прапіў коніка і абротычку.* З нар. песні. Слаўнае Мсцісл.

АБРОЦЬ, -і, *ж.* Аброць, вуздэчка. *Вазьмі аброць і забрытай кыня.* Бяседавічы Хоцім. *Хлапец узяў аброць і пашоў па кыня.* Ташна Клім. *Малый вядзець кыня зы аброць.* Шумячы. *Забрытай кыня аброцыцю і вядзі двору.* Гарманава Касцюк.

АБРУБЛІНЫЙ, *прым.* 1. Абрублены, абсечаны. *Усі веткі абрубліныя.* Палуж Краснап. 2. Падрублены. *Пыгана твыя кохта абрубліныя.* Маластоўка Краснап.

АБРУБІЦЬ, *дзеясл.* Абрубіць, зашыць бераг [зашыць рубцы]. *Трэба хвартух абрубіць, ды ўсё некылі.* Затоны Раснян. *Я сваю хустку абрубіла.* Крывы Лес Шумяц.

АБРУБЫК, -бка, *м.* Абрубак, абсечанае бервяно [кавалак палена]. *Ну й зрабіў жа ты лыпату! Ета ж абрубык нейкі*! Каробчына Мсцісл. *Пысячы той абрубык на дровы.* Палуж Краснап.

АБРУГАЦЬ, *дзеясл.* Аблаяць. *Абругаў мяне ні зашта і пашоў, во чылавек!* Слаўнае Мсцісл.

АБРУ́НІЦЦА, *дзеясл.* [Урунець], зарунецца. *Жыта ўжо ўзышло, скора абруніцца.* Гірэевічы Клім.

АБРУ́НІЦЬ, *дзеясл.* Зарунець [і урунець], зазелянець. *Жыта даўно ўзышло і добра абруніла.* Сохана Мсцісл.

АБРУ́С, -а, *м.* 1. Абрус, настольнік. *Зысьцялі на стол абрус, абедыць будзім.* Усполле Раснян. *Зысьцяліце вы, бабы, чыстый абрус на стол.* Добрае Мсцісл. *Стол зыслалі абрусам.* Малюшын Краснап. 2. Шырокі ручнік, што вешаюць на абразы. *Павесь чысты абрус на йконы.* Б. Хутары Краснап.

АБРУ́Ч, -а, *м.* Абруч. *Ны вядры абруч лопнуў, нада другі ныцянуць, ато цячэць.* Вародзькава Крыч. *Абруч пірыжабіўся ў адным месяці.* Хвёдараўка Краснап. *Бочка цячэць: абруч пырваўсь.* Б. Хутары Краснап.

АБРУ́ЧЫК, -а, *м.* 1. Памянш. ад абруч. *Зь етыя лескі абручык ны вядро выйдзя.* Бродкі Крыч. 2. Пярсцёнак. *Я знайшоў залаты абручык ды з жуковінай.* Дзіснакіта Мсцісл. *Іўка абручык сібе купіла, узамуж зьбіраіцца.* Маластоўка Краснап.

АБРУ́ШЫНА, -ы, *ж.* Абвал. *Кыля крутой гары зрабілась абрушына.* Сохана Мсцісл.

АБРУ́ШЫЦЦА, *дзеясл.* Абваліцца, заваліцца [абурыцца]. *Наш стары погрыб абрушыўсь.* Сохана Мсцісл.

АБРУ́ШЫЦЬ, *дзеясл.* Абваліць [абурыць]. *Ні стой ны краю ямы, бо йшчэ абрушыш!* Лабаноўка Клім.

АБРЫ́ДА, -ы, *ж.* Абрыда. *Абрыда ты! У хаце пы калена сьміцця і гразі, ат смуроду нільзя дыхаць.* Сохана Мсцісл. *Абрыда глядзець ны яго, які ён гідкі.* Нашкавічы Мсцісл. *Абрыда ты, што ета ты дзелаіш?* Палуж Краснап.

АБРЫ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Абрыдзець. *Яно мне так абрыдзіла, што і есьці ні магу.* Парадзіна Мсцісл. *Абрыдзіла мне слухаць лаінку п'яных, дык я пашоў двору.* Папоўшчына Мсцісл.

АБРЫ́ДЛЫЙ, *прым.* Абрыдлы. *Зыдавіцца б ат етыга жыцьця абрыдлага!* Сохана Мсцісл. *Абрыдлый ён мне стаў, жыць зь ім ні магу.* Гірэевічы Клім.

АБРЫ́ДНІК, -а, *м.* Абрыднік, паскуднік. *Абрыднік ты, што ты нырабіў?* Сохана Мсцісл. *Слухайця вы абрыдніка етыга!* *Добрыму чылавеку зь етым абрыднікам ня толькі гываръщь — стрэцца сорымна.* Лабаноўка Клім.

АБРЫ́ДНУЦЬ, *дзеясл.* Абрыднуць, абрыдзець. *Жывець адзін гультаём, ходзіць абшарпаным — усім абрыднуў.* Сохана Мсцісл. *Абрыдла мне яго гуканьня, проста ўжо слухаць ні магу!* Ушакі Чэрык.

АБРЫ́СКІВЫЦЦА, *дзеясл.* Апырсквацца. *Пыўлазілі ў лужу ды дывай абрысківыцца вадою.* Сохана Мсцісл.

АБРЫ́СКЫНЫЙ, *прым.* Абрызканы, запырсканы. *У цябе адзаду ўвесь кажух абрыскыный.* Нашкавічы Мсцісл. *Ты ж увесь гразьзю абрыскыный.* Бакунавічы Чэрык.

АБРЫ́СКЫЦЦА, *дзеясл.* Запырскацца. *Пакуль пераехаў лужу, увесь абрыскыўся гразьзю.* Сохана Мсцісл.

АБРЫ́ТАЦЬ, *дзеясл.* Забрытаць, надзець аброць. *Абрытай кыня, бо так ні зывядзеш двору.* Мсціслаў.

АБРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Абкапа́ць, абсыпаць зямлёю. *Абрылі зыгывальню кылы хаты.* Брылёўка Краснап.

АБРЮЗГАЦЬ, *дзеясл.* Брузнуць. *Ён дужа абрюзгаў ат сымагону.* Хвёдараўка Краснап.

АБРЮ́ЗЛЫЙ, *прым.* Абрузлы, апухлы. *Што зь ім стала? Ён такей абрюзлый, што шчокі абвісьлі, і хадзіць ні можыць.* Палуж Краснап.

АБСВАРІ́ЦЦА, *дзеясл.* Пасварыцца [і перасварыцца]. *Няўжыўчывэй чылавек ён, з усімі абсва́ріцца.* Палуж Краснап.

АБСЕ́ВАК, -ўка, *м.* Абсевак, памылкова прапушчанае пры сяўбе месца на полі. *На Мікітывай пыласе сёліта абсевык.* Галкавічы Мсцісл.

АБСЕ́ІНЫЙ, *прым.* Абсеяны [засеяны]. *Іравоя поля абсеіна.* Палуж Краснап.

АБСЕ́ІЦЬ, *дзеясл.* Абсеяць, засеяць, пасеяць. *Мікола мыладзец: адзін, а сколькі поля абсеіў!* Дзягавічы Крыч.

АБСЕ́ІЦЦА, *дзеясл.* Абсеяцца, пасеяць, скончыць сяўбу. *Чуць толькі абсеілісь, дык і марозы пычаліся.* Журбін Бялынкав.

АБСЕ́КЦІСЬ [абсекца], *дзеясл.* Абсекчыся, змоўкнуць. *Датуль гыварыў, датуль брыхаў, пакуль абсекся.* Сохана Мсцісл.

АБСЕ́СЬЦЬ, *дзеясл.* 1. Абсесці, пасесці наўкол. *Пустушкі абселі агонь наўкол, што й дыступіцца нільга.* Бакунавічы Чэрык. *Ці ні жалка табе, Мыланка, ||Што чужая радзіма абсела, ||А свыя рыдня вон пышла?* З нар. песні, М. Г. 36. 2. Напладзіць, абзавесціся дзецьмі. *Абсеў дзяцьмі дробнымі наш сусед, а ў беднасьці гыдываць іх цяжка.* Сохана Мсцісл.

АБСЕ́ЎКІ, -вак, *мн. л.* 1. Астатак зерня пасля сяўбы. *Атвязі ўдвору абсеўкі.* Хвёдараўка Краснап. 2. Канец сяўбе. *Сяньне ў мяне абсеўкі, прыходзь увечыр — выпьем пы чарцы.* Добрае Мсцісл.

АБСЕ́ЧЫНЫЙ, *прым.* Абсечаны. *Усі суччa абсечыныя, голый стаўбур стаіць. Кычан капусты абсечыный.* Хвёдараўка Краснап.

АБСІДА́ЦЬ, *дзеясл.* Абсядаць, садзіцца наўкол. *Як толькі дзед выйдзіць на вуліцу, дык хлопцы зараз абсідаюць яго і слухаюць, што ён прысказвыіць пры старыну.* Сохана Мсцісл.

АБСІКАЦЬ, *дзеясл.* 1. Абсякаць. 2. Абрываць у гутарцы. *Ого, пыпадзіся яму! Ён добра ўмее абсікаць брахуной.* Сохана Мсцісл.

АБСКРАБЫНЫЙ, *прым.* Абскрабаны. абдрапаны. *Чаму ў цябе лоб абскрабыный да крыві?* Слаўнае Мсцісл.

АБСКРА́БЫЦЬ, *дзеясл.* Абскрабаць, абдзерці, абдрапаць. *Пусьці кошку, ато іна цябе абскрабыя.* Гірэевічы Клім.

АБСКРЕ́БЫНЫЙ, *прым.* Абскробаны, абдрапаны. *У цябе нос увесь чыста абскрё-*

*быный, дзе ты яго абскрёбыў?* Горкі Краснап.

АБСКРЭ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Абскрэбсці. *Хацеў моркву абскрэсьць, дык німа чым, і памыць нейдзе, дык ён аб траву абцёр і дывай есьць.* Бардзіч Краснап.

АБСКУ́БЛІНЫЙ, *прым.* Абскублены, абскубаны. *Парсючок ужо абскубліный, можна везьці смаліць.* Марамілле Қасцюк.

АБСКУ́БСЬЦЬ, *дзеясл.* Абскубсці. *Нада курыцу абскубсьць ды выпытрашыць.* Лабаноўка Клім. *Парсючка 'бварылі варым, а тады абскублі.* Парадзіна Мсцісл.

АБСМА́КТЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Абсмоктваць. *Ён дужа любіць косьці абсмактывыць.* Дзягавічы Крыч.

АБСМА́ЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Асмольваць, засмольваць [пакрыць смалою]. *Човін цякець, абсмалівыць нада.* Дарагая Крыч.

АБСМА́ЛІНЫЙ, *прым.* Асмалены, апалены. *Ён страшный, як чорт абсмаліный.* Сохана Мсцісл.

АБСМАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Асмаліць, abліць смалою. *Дно ў бочцы абсмалілі смалою, каб ні цікла.* Сохана Мсцісл. *Здаецца й абсмаліў свой чавён, а цякець.* Залесавічы Крыч. 2. Апаліць. *Кыбына зыкалолі, нада абскусьць ды абсмаліць яшчэ.* Пірагова Мсцісл.

АБСМАРГНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Абшмаргнуць, абарваць лісце. *Абсмаргні лісьця з етыга дубчыка.* Вербеж Чэрык.

АБСМО́РГЫНЫЙ, *прым.* Абшморганы, абарваны з бакоў (абскубены). *Чылавек вязець бальшый, добра ўвязаный і абсморгыный воз — сена падыць.* Глінь Чэрык.

АБСМО́РГЫЦЬ, *дзеясл.* Абшморгаць, абарваць [абскубці]. *Атламі доўгую хвырасьціну ды абсморгый лісьця, дык будзе чым і кыня пыдыгнаць.* Сохана Мсцісл.

АБСМУРО́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Засмуродзіцца. *На целі рыздавіў клыпа, дык абсмуродзіўся ўвесь.* Сохана Мсцісл.

АБСМУРО́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Засмуродзіць. *А ніхай вас! Абсмуродзілі хату сваім тытунём.* Затоны Раснян. *Абсмуродзілі пакой нечым сьмярдзючым.* Клімавічы.

АБСМЫКТА́ЦЬ, *дзеясл.* Абсмактаць. *Усё чыста паеў, міску вылізаў і косьці абсмыктаў.* Старае Сяло Мсцісл.

АБСМЫЛЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Абсмылець, абсмаліцца. *Бяроза ад пыжару абсмылела, і гольлійкі пывялі.* Гірэевічы Клім.

АБСО́ВА, -ы, *ж.* Абвал, апоўзак [апоўзень]. *Сёліта яшчэ кыля речкі зрабілась абсова, беріг абсунуўсь.* Ключ Чав.

АБСТРАМІ́ЦЦА, *дзеясл.* Асароміцца. *Нічога ня выйшла зь яго хітрыкаў, толькі абстраміўсь.* Палуж Краснап.

АБСТРАМІ́ЦЬ, *дзеясл.* Асароміць. *Абстраміла я яе на ўсю вуліцу, болей ня пойдзець красьць.* Пірагова Мсцісл.

АБСТРІ́КАЦЬ, *дзеясл.* Абстрыкаць, апячы крапівою. *Крапівой яго абстрікаць, шэльму такога.* Краснаполле.

АБСТРІ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Абстрыкаць, апячы крапівою. *Крапівой сібе рукі чыста абстрікыў.* Маластоўка Краснап.

АБСТРУ́ГЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Абстругваць, габляваць. *Стыляр даў свайму падмасьцёрку абстругывыць дошкі.* Сохана Мсцісл.

АБСТРУ́ГЫНЫЙ, *прым.* Абструганы [абгабляваны]. *Мой кіёк абстругыный, а твой з карою.* Азерцы Клім. *Абстругыныя дошкі скарэй сохнуць.* Сохана Мсцісл.

АБСТРЫ́ГЧЫ [абстрыжч], *дзеясл.* Абстрычы. *Цурульнік абстрыг выласы, ды дужа нізка.* Пірагова Мсцісл. *Абстрыг быраду, дык цябе й ні пызнаць!* Іванаўка Хоцім.

АБСТРЫ́ГЧЫСЬ [абстры́жца], *дзеясл.* Абстрыгчыся, абстрыгчы валасы. *Як буду ў горыдзі — зайду ў цурульню і абстрыгуся.* Пірагова Мсцісл.

АБСТРЫ́КАНЫЙ, *прым.* Абстрыканы, апечаны крапівою. *Абстрыканыя места на целе дужа сьвярбіць і баліць.* Сохана Мсцісл.

АБСТРЫ́КАЦЦА, *дзеясл.* Абстрыкацца, апячыся крапівою. *Упаў з грушы ў крапіву, дык увесь чыста абстрыкаўсь.* Паўлавічы Клім.

АБСТРЫ́КАЦЬ, *дзеясл.* Абстрыкаць, апячы крапівою. *Жала крапіву сьвіньням, дык чыста ўсе рукі абстрікала.* Слаўнае Мсцісл. *Рукі жыгыйкай абстрыкала.* Хвёдараўка Краснап. *Глядзі, шэльма, як злаўлю ў сваім гародзе — крапівою абстрыкаю.* Дзіснакіта Мсцісл.

АБСТРЫ́КЫЦЦА, *дзеясл.* Абстрыкацца, апячыся крапівою. *Ня лезь у крапіву, ато абстрыкыісьсі, дык пайдуць па целе булдыры!* Пірагова Мсцісл. *Як зваліўся я с прясла, ды ў крапіву — абстрыкыўся ўвесь.* Дзіснакіта Мсцісл.

АБСТРЫ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Абстрыкаць, апячы крапівою. *Дзіцёнык у крапіву ўпаў, дык твар абстрыкыў, што ўвесь у булдырох.* Глінь Чэрык.

АБСТЫЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Абстаяць [знаходзіцца ў стане]. *Як абстыяць тваe справы?* Ключ Чэрык. *Во як дзела абстаіць!* Хоцімск.

АБСУ́НУЦЦА, *дзеясл.* Абсунуцца, аб'ехаць уніз, ссунуцца. *Лі зарэчынскага мосту берыг абсунуўсь.* Мсціслаў. *Нядобра ныклалі воз, дык ён ны дарозе й абсунуўсь.* Варанёва Крыч.

АБСУШЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Абсушыцца. *За цельный дзень намок пыд дажджом, а прышоў двору, й абсушыцца нейдзе, хата нятопліна.* Пухнава Раснян.

АБСУШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Абсушыць, высушыць. *Дайця мне хоць анучы абсушыць лі агню.* Вітрунь Қасцюк. *А ты, ветрычык, а ты буйінінькій, ‖Абсушы ж ты мяне!* З нар. песні, М. Г. 88.

АБСЫ́ПАЦЦА, *дзеясл.* Абсыпацца, ападаць. *Восінь ужо, бачыш, лісьця з дрэў абсыпацца пычало.* Машавая Бялынкав.

АБСЫ́ПАЦЦА, *дзеясл.* Асыпацца, апасці. *Смолка ўжо адцьвіла, і яе чырвоныя цьвяткі засохлі і абсыпаліcь.* Сохана Мсцісл.

АБСЬВІСТА́НЫ, *прым.* Асвістаны. *Уцёк ён абсьміяный, абсьвістаный.* Арцёмаўка Міласл.

АБСЬВІСТА́ЦЬ, *дзеясл.* Абсцябаць. *Як*

*узялі яго ў дзьве пугі, дык абсьвісталі, што месца жывога ні пакінулі.* Вітрунь Касцюк.

АБСЬЛЮ́НІНЫЙ, *прым.* Абслінены, змочаны слінаю. *У малога рубашка ны грудзях абсьлюніныя.* Сохана Мсціcл. *Дзіцёнык увесь абслюніный, і ніхто яго ні вытріць.* Іванаўка Хоцім.

АБСЬЛЮ́НІЦЦА, *дзеясл.* Абслініцца. *Рызівяка нейкій, пакуль скажыць што, дык абсьлюніцца, што глядзець гідка.* Вербеж Чэрык.

АБСЬЛЮ́НІЦЬ, *дзеясл.* Абслініць, змачыць слінаю. *Дзед курыць піпку, а сьлюні цякуць — усю быраду абсьлюніў.* Сохана Мсціcл.

АБСЬЛЮНЯ́ВІЦЬ, *дзеясл.* Абслініць. *Усю лёлю хлопчык абсьлюнявіў! Дывай мы яе ськінім — сухінькую надзенім.* Дзеражна Касцюк.

АБСЬМЕ́ІНЫЙ, *прым.* Абсмяяны, асмеяны [высмеяны]. *Пайшоў абсьмеіный сагнуўшысь — абсьміялі дзеўкі.* Хвёдараўка Краснап.

АБСЬМІ́ХЫВАЦЬ, *дзеясл.* Абсмейваць, смяяцца з каго. *Дос вам абсьміхывыць хлыпца!* Палуж Краснап.

АБСЬМІЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Абсмяяць, асмяяць, падняць на смех. *Абсьміялі дзеўкі хлыпца.* Палуж Краснап.

АБСЬМЯ́ГЛЫЙ, *прым.* Засмяглы, засохлы. *Зімля ўжо абсьмяглыя, дождж у нада.* Машавая Бялынкав.

АБСЬМЯ́ГНУЦЬ, *дзеясл.* Засмягнуць, засохнуць. *Кыла 'гню лапці абсьмяглі.* Сохана Мсціcл. *Ат жары ў мяне аж губы абсьмяглі.* Журбін Бялынкав.

АБСЬЦЁБЫНЫЙ, *прым.* Абсцёбаны, высцебаны, біты. *Абсьцёбыный да крыві, ён ня мог сесьці.* Сохана Мсціcл.

АБСЬЦЁБЫЦЬ, *дзеясл.* Абсцёбаць, высцебаць, аддзяжыць, высечы [абсекчы]. *Зы балыўства абсьцёбыць нада.* Астрава Клім.

АБТАЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Абтачыць, стачыць. *Еты кружочык абтачыць нада, штоб гладкій быў.* Мсціслаў.

АБТО́ЎЧ, *дзеясл.* Абтаўчы. *Нада трохі ячменю абтоўч на крупы.* Астрава Клім.

АБТО́ЎЧЫНЫЙ, *прым.* Абтоўчаны. *Ня трэба больш таўчы пышаніцу, іна ўжо абтоўчына.* Навасёлкі Мсціcл. *Проса ўжо ладна абтоўчыныя.* Краснаполле.

АБТО́ЧЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Аточваць, тачыць. *Яго ні тачылі, абточывыць нада.* Глінь Чэрык.

АБТРІХА́ЦЦА, *дзеясл.* Абтрасацца, страсаць з сябе. *Увайшоўшы ў сені, ён стаў абтріхацца ат сьнегу, уськідываючы плічамі армяк.* Арцёмаўка Міласл.

АБТРІХА́ЦЬ, *дзеясл.* Абтрасаць, страсаць. *Абтріхай сьнег з кажуха, ато рыстаніць.* Астрава Клім.

АБТРЭ́СЬЦІ [абтрéсьць], *дзеясл.* Абтрэсці. *Мальцы ў Якыва ўсю грушу абтрэсьлі.* Галкавічы Мсціcл.

АБТРЯХНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Абтрэсці, стрэсці. *Абтряхні мне адзаду пальто ад сьнегу.* Гібалы Касцюк. *Пынычапілісь ны яго кучыю, дык ён як завінуўся, што мышынят усіх абтряхнуў зь сябе.* Журбін Бялынкав.

АБТУ́КАНЫЙ, *прым.* Затуканы, забіты. *Хлапец абтуканый, усіх баіцца.* Сохана Мсціcл.

АБТУЛМА́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Абмеркаваць, абгаварыць. *Абтулмачылі разым і пырашылі паехаць туды.* Палуж Краснап.

АБТЫНКО́ВЫНЫЙ, *прым.* Абтынкованы. *У абтынковыный зімлянцы сім'я бежынцаў пражыла некалькі гадоў.* Сохана Мсціcл.

АБТЫНКУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Абтынкаваць, атынкаваць. *Абтынкуваць нада хату к зіме, ато холадна будзіць.* Пухнава Раснян. *Каб не абсыпылась зімля ад сьцен погрыба, яго абтынкувалі тонкім бярвеньнем.* Сохана Мсціcл.

АБТЫЎКА́ЦЬ, *дзеясл.* Абтаўкаць. *Ячмень абтыўкаць нада, крупы зьдзелыць.* Маластоўка Краснап.

АБУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Абувацца. *Січас зыбырсаю лапці новымі аборымі і буду абувацца.* Арцёмаўка Міласл.

АБУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Абуваць. *Абувай сёньні боты, бо ны дварэ даволі халодна.* Ключ Чэрык. *Яго ж яшчэ нада штодзень абуваць, сам яшчэ ні абуіцца.* Журбін Бялынкав.

АБУЖА́ЦЦА, *дзеясл.* Абуджацца, прабуджацца, прачынацца, уставаць. *Мой хызяін рана абужаіцца і мне спаць ні даець.* Добрае Мсціcл.

АБУ́ЗА, -ы, *ж.* 1. Абуза, лішняя турбота. *Етыя дзела — 'дна толькі абуза, а выгады ніякей.* Мсціслаў. *Нывізалі мне етыю абузу ны маю гылаву.* Юркаўка Крыч. 2. Распуста. *Ладныя баба, ды в' абузу пусьцілась.* Добрае Мсціcл. *Хлопіц — абуза, за ўсімі дзеўкымі гыняіцца.* Дзіснакіта Мсціcл. 3. Брыда, абрыда, вісус, гультай. *Абуза ты едыкыя! Сядзіш і ні бачыш, што сьвіньні ў гародзе.* Азерцы Клім.

АБУ́ЗНА, *прысл.* Непрыемна, няёмка. *Абузна вышла зь етым дзелым.* Усполле Раснян.

АБУ́ЗНЫЙ, *прым.* 1. Непрыемны, прыкры. *Абузныя дзела вышла, што й кызаць.* Усполле Раснян. 2. Вадны, што вадзіць, перашкаджае. *Мне ета торба ў дарозі дужа будзіць абузна.* Слаўнае Мсціcл.

АБУ́ЗЬНІК, -а, *м.* Абузнік, распуснік. *Абузьнік едыкій, на месьці ні пысядзіць, усюдых пасьпеіць.* Усполле Раснян. 2. Партач, дрэнны майстар. *Абузьнік ты, а ні партнэй, ці зыплаціш ты мне за тывар, што папсуваў?* Мсціслаў.

АБУ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Разбурыць, раскідаць, наваліць. *Дровы нехта абурыў, нада ўноў класьць.* Мсціслаў.

АБУСЕ́ВЫК, -еўка, *м.* Абсевак. *Сеўшы, абусевык зьдзелыў, дык жыта ня вырысла, і цяпер, як плеш, на пыласе.* Хвёдараўка Краснап.

АБУ́ТРЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Займацца на дзень, днець. *Ужо пычало абутрывыць, як мы пывялі коні ны пасту.* Астрава Клім. *Добра ўжо абутрыла, як я прашнуўся.* Сохана Мсціcл.

АБУ́ТРЫЦЬ, *дзеясл. безас.* 1. Заняцца на дзень, развіднець. *Ужо абутрыла, нада выгыняць статык ў поля.* Сохана Мсціcл.

2. Абсохнуць зранку. *Рыса ўжо абутрыла, можна йсьці.* Там жа.

АБУ́ТЫК, -тка, *м.* Абутак. *Абутык у дзяцей пыабнасіўся, нада купляць новы, ато зіма блізка.* Острава Клім. *Абутку на ногі німа, што ета за жызьня?* Белы Камень Бялынкав.

АБУ́Х, -а, *м.* Абух. *Уцяпні тапор у калоду, пылажы гвозд ны абух і пастукай па ім мылатком, ато ён пагнутый.* Арцёмаўка Міласл.

АБУ́ЦЬ, *дзеясл.* Абуць. *Трэба сяньні лапці абуць, будзе лепей.* Пухнава Расням. *Дзед абуў суконкі.* Машавая Бялынкав.

АБУ́ЦЬЦЯ, -я, *н.* Абуцце, абутак. *Трэба ўжо на зіму абуцьця гатовіць.* Каробчына Мсцісл. *На етых дзяцей абуцьця ні ныбярэсься — пыдзяруць ны лёдзе.* Гірэевічы Клім. *Дзеці босыя — абуцьця ніяк не спраўлю.* Палуж Краснап.

АБУ́ШЫК, -а, *м.* Памянш. ад абух. *Ты ні кляўцом бі гвозд, а другім канцом, абушыкам.* Сохана Мсцісл. *Абушык у мылатку ня роўный.* Гірэевічы Касцюк.

АБХАДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Абыходзіцца, задавальняцца тым, што ёсць. *Можна і так абхадзіцца, без етыга.* Сохана Мсцісл. 2. Адносіцца, трымацца ў паводзінах. *Мылыдая хызяйка з гысьцямі абхадзілась дужа ветліва.* Там жа.

АБХАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Абхадзіць, абысці. *Абхадзіла ўсі двары і нідзе грошы ні дыстала.* Гімбатаўка Мсцісл. 2. Абыходзіць. *Ета балота ні пірайдзеш, абхадзіць нада, бо піраходу тут німа.* Сохана Мсцісл.

АБХАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Абхапіць, узяць у абдымкі, абняць. *Мяшок у пяць пудоў, а ён ік абхапіў упол, дык адразу ны вясы пыставіў.* Мсціслаў.

АБХАРЧЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Абхарчыцца, з'есці ўсе харчы. *Бідняга зы дарогу абхарчыўся чыста, ледзь двору прыехыў.* Палуж Краснап.

АБХВА́Т, -у, *м.* Ахват. *Дубы ў два абхваты на дровы парезылі.* Бобрыкі Мсцісл.

АБХВАЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Абхапіць. *Абхваціў мяне Сымон упол і пываліў.* Боханы Смал.

АБХВЫРАСЬЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Абхварасціць, высцебаць хварасцінаю. *Абхвырасьціў яго бацька добра гэтаю пруцінаю.* Сохана Мсцісл.

АБХІНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Абхінуцца. *Абхініся платком ды выбяжы пыглядзі, куды яны пашлі!* Палуж Краснап. *Абхінулысь хустай ды пышла.* Віхраны Мсцісл.

АБХІНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Абхінуць, захіліць. *Абхіні ты дзіцёнка, ато халодна яму.* Канахоўка Мсцісл. *Абхінула іна яго хустый ды пынесла двору.* Лабаноўка Клім.

АБХЛЮ́НДРЫЦЦА, *дзеясл.* Абхлюндрыцца, запэцкаць падол гразёю. *І нада ж было так абхлюндрыцца, вачэй у цябе ні было, ці што?* Слаўнае Мсцісл. *Дзе й ты так абхлюндрылыся, што падолу ні знаць?* Затоны Расням.

АБХЛЮ́НДРЫЦЬ, *дзеясл.* Абхлюндрыць, запэцкаць у гразь. *Абхлюндрыла ўсю спадніцу, што падбіўкі ні знаць.* Азерцы Клім.

АБХЛЮ́ПЫЦЦА, *дзеясл.* Абхлюпацца, запэцкацца ў гразь. *Абхлюпыўся ўвесь гразёю.* Палуж Краснап.

АБХЛЮ́ПЫЦЬ, *дзеясл.* Абхлюпаць, запэцкаць у гразь падол спадніцы. *У, хлюндра, увесь андрак абхлюпыла.* Мсціслаў. *Абхлюпыла падол спадніцы.* Шумячы.

АБХНЫ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Прасіць чаго-небудзь [і абысці просячы]. *Алёна па ўсёй дзярэўні мукі абхныкыла і нідзе ні дыстала.* Крывы Лес Шумяц.

АБХО́Д, -у, *м.* Абход. *Лясьнік штодзень робіць абход лясныя дачы.* Сохана Мсцісл.

АБХО́ДНЫЙ, *прым.* Абходны, што ідзе ў абход чаго-небудзь. *Ён пайшоў абходнай сьцежкай, а ты ідзі проста, дык нагоніш яго.* Папоўшчына Мсцісл.

АБЦА́С, -а, *м.* Абцас. *Сыпагі ладныя, толькі абцасы з кардону.* Мсціслаў.

АБЦІРЯБІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Абцерабіць, абсекчы галлё. *Абцірябіў дуб.* Хвёдараўка Краснап. 2. Абсцёбаць. *Ік узяў пугу, дык абцірябіў яго па вушах, што крый бог.* Белы Камень Бялынкав.

АБЦУГІ́, -оў, *мн. л.* Абцугі. *Гвозд зыржавіў, біз абцугоў ні выцігніш, пакінь!* Янаўка Мсцісл. *Вазьмі абцугі і вырві етый гвозд з сьцяны!* Шумячы.

АБЦУДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Абмачыць, памачыць. *Пакуль дабеглі двору, дошч так абцудзіў, што рубца сухога ні пакінуў.* Каробчына Мсцісл.

АБЦУЖКІ́, -оў, *мн. л.* Памянш. ад абцугі. *Дыстань з скрынкі абцужкі і павырывай етыя гвозьдзя.* Сохана Мсцісл.

АБЦУРБО́ЛІЦЦА, *дзеясл.* Абмачыцца. *Дзіцёнык пы самую шыю абцурболіўся і ляжыць мокрый увесь.* Каробчына Мсцісл.

АБЦУРБО́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Абмачыць. *Хлопіц увесь сяньнік абцурболіў.* Глупікі Крыч.

АБЦЫГА́НІЦЬ, *дзеясл.* Ашукаць, абдурыць. *Абцыганіў ён цябе здорыва зь етый касою — ета ж падосык, а ні каса.* Мсціслаў.

АБЦЬВЕ́ЦІЦЬ, *дзеясл.* Абквяціць, упрыгожыць кветкамі. *Магілку хорыша абцьвецілі.* Палуж Краснап.

АБЦЯ́ЖЫНЫЙ, *прым.* Абцяжаны [абцяжараны, падарваны], сапсаваны тым, што цяжкае вёз (пра каня). *Ладный конь, толькі абцяжыный ён, бачыш, якія ў яго ногі!* Дзіснакіта Мсцісл.

АБЦЯ́ЖЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Абцяжваць [абцяжарваць]. *Кыня дужа 'бцяжылі, ні дывязець.* Палуж Краснап.

АБЦЯ́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Абцяжыць [абцяжарыць, падарваць]. *Абцяжыў я свайго кыня, ні нада было нyклaдaць стольkі.* Тур'я Чэрык. *Кыня дужа 'бцяжылі.* Старае Сяло Мсцісл.

АБЦЯ́ПЫЦЬ, *дзеясл.* Абцяпаць, зрабіць [справу]. *Лоўка мы ета дзела з табой абцяпылі.* Мсцісл.

АБЦЯ́ТЫ *прым.* Абрублены [абцяты, укарочаны]. *Ета бярвеньня ня годна, яно дужа абцята.* Каробчына Мсцісл.

АБЦЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Абрубіць, абсекчы, абцерабіць. *Раньшы нада гальлё абцяць, а тады ўжо пілуваць ны бярвеньні.* Нашкавічы Мсцісл. *Я скызаў яму суччча ў яблыні абрэзыць, а ён усю яблыню абцяў, толькі макушка зысталася.* Дзягавічы Крыч.

АБЧА́СКІЙ, *прым.* Грамадзянскі [грамадскі]. *Ета сад абчаскій — усім заходзіць можна.* Краснаполле.

АБЧЫСА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Абчасаць, зняць кару з бярвенняў. *Заўтры абчысаць бярвенні нада, каб ня струхнелі за лета.* Клімавічы. 2. Зрэзаць няроўнасці. *Нада палку ны мятлу абчысаць, штоб у руку ня муліла.* Сапрынавічы Мсцісл.

АБЧЫ́СЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Ачысціць, прачысціць. *Трэба ход абчысьціць, ато ні далезьць за сьнегам.* Клімавічы.

АБЧЫШЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Абчышчаць. *Сяньні я буду абчышчаць жэрдзя ат кары, ато яно за лета патрупехня пыд карою.* Журбін Бялынкав. *Вазьмі скобель ды абчышчай жэрдзя.* Касперка Міласл.

АБЧЭ́СЬЦЬВІННЫЙ, *прым.* Грамадскі. *Дзіравенцы нашы пастроілі абчэсьцьвінную лазьню.* Сохана Мсцісл. *Дзела ета абчэсьцьвінныя, абчэсьцьвінныя павіннасьці.* Высокі Бор Краснап.

АБШАЛУПА́ШЫЦЬ, *дзеясл.* Аблузаць. *Квасолю абшалупашыць нада.* Палуж Краснап.

АБША́МЫЦЬ, *дзеясл.* Зрабіць што-небудзь употайкі, хутка. *Пад носым у лясьніка два дубы ўкралі, і так скора ета дзела абшамылі, што ён і ні ўвідзіў.* Курманава Мсцісл.

АБША́Р, -у, *м.* Абшар, прастор, разлегласць. *Куды ні глянь — такі абшар, што аж серца радуіцца.* Ушакі Чэрык.

АБША́РА, -ы, *ж.* Абшар. *Уся 'бшара тут некылі была лесым.* Палуж Краснап.

АБША́РНА, *прысл.* Шырока, прасторна. *Як у вашым пакоі абшарна — ні тое, што ў нас, дык пывярнуцца німа дзе.* Ушакі Чэрык.

АБША́РПЫНЫЙ, *прым.* Абшарпаны, абадраны. *Надзеў ны дарогу ўсё новае, чыстае, а зьвярнуўсь увесь абшарпыный.* Старае Сяло Мсцісл. *Ходзіць абшарпыный, бо ня маіць целай адзежы.* Сохана Мсцісл.

АБША́РПЫЦЦА, *дзеясл.* Абшарпацца, абадрацца, знасіць адзежу. *Нада ж так абшарпыцца, што й латкі німа як прышыць. Абшарпыўся, што й адзецца неўвашта.* Сохана Мсцісл.

АБША́РПЫЦЬ, *дзеясл.* Абшарпаць, абадраць. *Подыл у плацьці абшарпыла.* Усполле Раснян.

АБША́РХЫЦЦА, *дзеясл.* Знюхацца, сысціся. *Хлопіц абшархыўся зь ёю, ну й радзіўся дзіцёнык.* Гарадзец Бабр.

АБШАСНУ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Спатыкнуцца. *Я абшаснуўся, ды як грымнуў вобзем!* Хвёдараўка Краснап. 2. Аступіцца. *Дзед абшаснуўся і зваліўся з засіку.* Сохана Мсцісл. *Абшаснуўся з мосту, ды ў ряку.* Шумячы. 3. Паслізнуцца. *Абшаснуўся і па поіс убэхыўся.* Горкі Краснап.

АБША́СТЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Пільна абшукаць. *Абшастыў усі куточкі і нічога не знайшоў.* Вожыгаўшчына Мсцісл. 2. Абабраць, абакрасці. *Зладзеі сяеночы абшастылі майго суседа да гыла.* Маластоўка Краснап.

АБШАТНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Пахіснуцца. *Ня лезь высака, бо абшатнесься і каюк!* Маластоўка Краснап. *Кладка зыбаіцца, глядзі — абшатнуцца можна.* Тур'я Чэрык.

АБШКРЯ́БЫНЫЙ, *прым.* Абшкрабаны, абдрапаны, абадраны. *У нашыга сыбакі ўся морда абшкрябыныя.* Горкі Краснап.

АБШКРЯ́БЫЦЬ, *дзеясл.* Абшкрабаць, абдрапаць. *Пусьці ката, бо ён табе рукі абшкрябыіць.* Высокі Бор Краснап.

АБШКУМА́ЦІЦЬ, *дзеясл.* 1. Ускаламаціць [павыцягваць шматкамі]. *Дзеці абшкумацілі кудзелю.* Каробчына Мсцісл. 2. Абарваць, абабраць. *Грушу йшчэ зялёныю дзеці абшкумацілі дачыста.* Палуж Краснап.

АБШЛІ́ПАЦЦА, *дзеясл.* Запэцкацца ў гразь. *Чаго йта ты ходзіш такою брыдою? Абырвалыся, абшліпалыся, што глядзець страшна.* Вожыгаўшчына Мсцісл.

АБШЛЫ́НДЫЦЦА, *дзеясл.* Падрацца, паабббівацца ўнізе, у падоле. *Твой андрак абшлындыўсь, абдрыпыўся, толькі трапкі быўтаюцца.* Сохана Мсцісл.

АБШЛЫ́НДЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Абшлындаць, абысці. *Абшлындыла ўсі двары і чуць к вечыру двору прывылыкласы.* Вожыгаўшчына Мсцісл. 2. Паабббіваць падол (у спадніцы). *Скора ты свой андрак абшлындыла, чыста ўнізе абырваўсь.* Белы Камень Бялынкав.

АБШМУЛЬГА́ЦЬ, *дзеясл.* Абшмульгаць, абцерці. *Абшмульгай аб крюк новую вяроўку, бо йна дужа жорстка.* Папоўшчына Мсцісл.

АБШМУ́ЛЬГЫНЫЙ, *прым.* Абшмуляны, абцёрты. *Гужы ў хамуце дужа абшмульгыныя, глядзі, што парвуцца ў дарозі.* Усполле Раснян.

АБШМУ́ЛЬГЫЦЦА, *дзеясл.* Абшмуляцца, абцерціся. *Задоўка ўжо абшмульгылась.* Папоўшчына Мсцісл.

АБШМЫ́ГЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Абшмыгаць, абабегаць, аблазіць усе куткі. *Што гэта за дзеўка? Ужо і сад абшмыгыла!* Каробчына Мсцісл. *Абшмыгаў, кыня шукаючы; усі куточкі; чуць знайшоў яго ў німярэччы.* Вожыгаўшчына Мсцісл. 2. Абарваць [абскубсці]. *Буря ўвесь сад абшмыгыла.* Хвёдараўка Краснап. *Дзеці йшчэ зялёнымі вішні абшмыгылі.* Горкі Краснап.

АБШТУКАТУ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Атынкаваць. *Штоб ня было халодна ўзімку, мы сваю хату абштукатурым ўнутры і абкынапцім знадворку.* Сохана Мсцісл.

АБШУКА́НЫЙ, *прым.* Абшуканы. *Етыга можна выпусьціць, ён ужо абшуканый, я ў яго дайжа ў кырманых абглецзіў.* Пірагова Мсцісл. *Калі шукалі пыкражу, абшуканых ставілі асоба.* Сохана Мсцісл.

АБШУКА́ЦЬ, *дзеясл.* Ашукаць, абмануць. *Цыган мяне на етым кані абшукаў.* Сохана Мсцісл.

АБШУ́КІВЫЦЬ, *дзеясл.* Абшукваць, шукаць. *На пыраходзе ў бабы ўкралі кашэль з грашамі, і ўсіх пысажырай абшуківылі.* Вожыгаўшчына Мсцісл.

АБШУЛУПА́ШЫЦЬ, *дзеясл.* Аблушчыць, аблузаць. *Квасолю абшулупашылі і схувалі.* Палуж Краснап.

АБШЧАПІ́ЦЦА, *дзеясл.* Абняцца. *Глянься, што йны дзельыюць! Абшчапілісь і цалуюцца.* Ушакі Чэрык.

АБШЧАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Абняць. *Хлопіц абшчапіў дзеўку і пацулуваў.* Палуж. Краснап.

АБШЧЫКАТУ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Атынкаваць. *Табе сваю хату абшчыкатурыць нада, цяплей будзець.* Дзіснакіта Мсцісл. *Сцены йшчэ абшчыкатуріць нада.* Краснаполле.

АБШЫВАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Абабраць, абакрасці. *Сяньні мяне абшывалілі: усё сала зыбралі.* Хвёдараўка Краснап. 2. Зрабіць хутка справу. *Сгыварылісь абшываліць дзела.* Вожыгаўшчына Мсцісл.

АБШЫРПА́НІЦ, -нца, *м.* Абшарпанец, абадранец. *Чый ета хлопчык-абшырпаніц?* Мазалава Мсцісл.

АБШЫРПА́ЦЦА, *дзеясл.* Абшарпацца, абадрацца. *Скрыня ж зялезныя — іна ж ніколі ні абшырпаіцца, як тая, што халстом аббіта.* Старае Сяло Мсцісл.

АБШЫ́ТЫЙ, *прым.* Абшыты. *Ны табе пінжак сядзіць, што абшыты.* Клімавічы. *Ня ўцішайціся, урагі, ‖Вязець татухна пірагі, ‖Чырвоным сукном пакрыты, ‖Зялёным шоўкам абшыты.* З нар. песні. Слаўнае Мсцісл.

АБШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Абшыць. *Дыстывай ірьхі, нада кыжушок абшыць.* Бяседавічы Хоцім.

АБЫ́, *злучн.* 1. Абы. *Хуць што, абы зьесьць.* Віхраны Мсцісл. *Пайду хоць куды да суседзяў, абы дома ня быць.* Старае Сяло Мсцісл. *Чмут ты нішчасны! Вот будзіць бріхаць і бріхаць, абы языком малоць.* Ушакі Чэрык. 2. *Бо. Ня кнуй, абы ні малінькій.* Кокатава Мсцісл. 3. Толькі. *Абы б я з ім стрэўсь, а там пыглядзім.* Куравічы Мсцісл.

АБЫБРА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Абабраць, выбраць. *Сапрона ў старысты абыбралі.* Дзіснакіта Мсцісл. 2. Абрабаваць. *Бандзісты заступілі ны дарозе і абыбралі ды ніткі.* Вожыгаўшчына Мсцісл. *Абыбралі мяне злыя ворагі, ‖ Як зьвярнусь я цяпер к сваймy бацюхну?* З нар. песні. Пірагова Мсцісл.

АБЫВЯ́ЗЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Абавязваць. *Сельсавет абывязыіць вас пачыніць мост кыла сваёй пуні.* Пірагова Мсцісл.

АБЫВЯ́ЗЫК, -зка, *м.* Абавязак, павіннасць. *Калі ты сторaж, дык твой абывязык кырауліць сад.* Старае Сяло Мсцісл. *У ва ўсіх у нас ёсьць абывязкі, чаму ж ты ня хочыш нічога рабіць?* Пірагова Мсцісл.

АБЫВЯ́ЗЫНЫЙ, *прым.* Абавязаны, павінны. *Усі, абывязыныя іці ў Армію, павінны зьявіцца ў Амсьціслаў.* Пірагова Мсцісл.

АБЫВЯ́ЗЫЦЬ, *дзеясл.* Абавязваць, прымушаць. *Ты ні можыш мяне абавязыць, зыхачу — паеду, зыхачу — не.* Вожыгаўшчына Мсцісл.

АБЫ́ГДЗЕ, *прысл.* Усюды, хоць дзе [дзе хочаш]. *Я згодзін працуваць абыгдзе.* Папоўшчына Мсцісл.

АБЫГНА́ЦЬ, *дзеясл.* Абагнаць, выперадзіць, дагнаць і пакінуць. *Ён абыгнаў яго кыла горыду.* Залесавічы Крыч. *Ідзе ж ты мяне абыгнаў? Ты ж апысьля мяне выхаў.* Шыркі Раснян.

АБЫГРА́ЦЬ, *дзеясл.* Выйграць у каго ў гульні. *Абыгралі мяне ў трынку.* Хвёдараўка Краснап.

АБЫДЖГА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Высцебаць крапівою. *Пупаў ён майго хлапчука ў гародзе, абыджгаў-абыджгаў яго крапівою ды й пусьціў.* Пірагова Мсцісл. 2. Абкусаць. *Кымары мяне абыджгалі чыста.* Вожыгаўшчына Мсцісл.

АБЫДЗЁ, абыйдзе́, *прысл.* Абы-дзе. *Абыдзе, абы купіў, хуць у кыпіраціві, хуць у лавышніка.* Мсціслаў.

АБЫ́ДЗЕНЬ, *прысл.* 1. Штодня. *Абыдзень у горыдзі бываю.* Мсціслаў. *За печкый у нас цыркун пысяліўсь, абыдзень цыркыіць.* Касцюковічы. 2. За дзень, на працягу дня. *Абыдзень трэба мне зьвярнуцца.* Хвёдараўка Краснап. *Бацька абыдзень з горыду вярнуўся двору.* Сохана Мсцісл.

АБЫДРА́НІЦ, -нца, *м.* Абадранец. *І ня стыдна табе хадзіць такім абыдранцум? Зашый бы ты хуць сам сваё плацьця, ато расься вісіць.* Бяседавічы Хоцім.

АБЫЖДА́ЦЬ, *дзеясл.* Пачакаць. *Нада Міколу абыждаць, пойдзем умесьці.* Касперка Мілaсл. *Абажджы троху, будзем абедыць.* Гібалы Касцюк.

АБЫЗНА́ЦЦА, *дзеясл.* Абазнацца, памыліцца, не пазнаць. *Дзядзька, мусіць, абызнаўсь: я ня тэй чылавек, што вы думалі.* Палуж Краснап.

АБЫЗНЫВА́ЦЦА, *дзеясл.* Абазнавацца, памыляцца, не пазнаваць. *Ці табе навіна абызнывацца? Ты ж заўсёды зачэпіш чылавека нізнаёмыга.* Пірагова Мсцісл.

АБЫЙЦІ́, *дзеясл.* Абысці. *Старіц, пакуль дзярэўню абыйшоў, повін хатыль хлеба нызьбіраў.* Слаўнае Мсцісл. *А ўвесь рядочык абыйшла, ‖Нідзе татухны ні зныйшла.* З нар. песні. Багацькаўка Мсцісл. *Трэба абыйці поля, абглядзіць, каб канюхі ні нырабілі шкоды.* Сохана Мсцісл.

АБЫЙЦІ́СЯ, *дзеясл.* Абысціся. *Не бядуй ты дужа загыдзя — усё абыйдзіцца добра.* Ушакі Чэрык. *Абыйдімся і бяз етыга дыбра.* Залесавічы Крыч.

АБЫ́КАЛІ, *прысл.* 1. Абы-калі, калінебудзь [у любы час]. *Прыхадзі ў скрысеньня ці ў пынядзелык — абыкалі.* Старае Сяло Мсцісл. *А ны калі ета зрабіць? Абыкалі, ня так важна!* Канахоўка Клім. 2. Зрэдку, часамі. *Ня любяць у нас етый песьні, абыкалі пяюць.* Старае Сяло Мсцісл.

АБЫ́КУДЫ, *прысл.* Абы-куды, хоць куды [куды-небудзь]. *Як пычаў, дык ні глядзеў — абыкуды біў.* Каўшова Мсцісл.

АБЫЛВАНІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Абалваніць, нізка абстрыгчы. *Я скызаў яму, штоб ён ня дужа шчытна абстрыг, а ён узяў ды абылваніў мяне ды гыла.* Арцёмаўка Мілaсл. 2. Абдурыць, ашукаць. *Што ты, абылваніць мяне хочыш? Саўсім ужо за дурука лічыш!* Пірагова Мсцісл.

АБЫНО́Ч, *прысл.* Штоночы. *Абыноч хадзіў дровы красьці ў лес, а днём спаў.* Старае Сяло Мсцісл.

АБЫНЫЧ, *прысл.* За ноч. *Абыныч нылавілі шмат рыбы.* Сохана Мсцісл.

АБЫРАНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Абараніць, захаваць. *Абырані цябе божа ат усякага ліха!* Сохана Мсцісл.

АБЫРА́НЫК, -нка, *м.* Абаранак. *Татка з Амсьціслаўля прывёз нізку абыранкыў.* Мазалава Мсцісл.

АБЫРВА́НЫЙ, *прым.* Абарваны, абадраны, у падраным адзенні. *Вунь ідзе нейкі абырваный старыц.* Кокатава Мсцісл.

АБЫРВА́ЦЬ, *дзеясл.* Абарваць, парваць. *Абырваў атосы, зычапіўшы за пень, а быдай яно згарэла!* Юркаўка Крыч.

АБЫСУРМА́НІЦЦА, *дзеясл.* Абасурманіцца, аскароміцца, есці ў пост скаромнае. *Абысурманіўсь я ў той дзень, узяў ды й наеўся да плышчаніцы.* Пірагова Мсцісл. *Міхась ужо абысурманіўсь: ніякыга посту ў яго німа.* Каўшова Мсцісл.

АБЫСУРМА́НІЦЬ, *дзеясл.* Абасурманіць, аскароміць, прымусіць есці ў пост скаромнае. *Етыя ж аторвы самы посту ні саблюдаюць і мяне хацелі абысурманіць — упрошвалі есьць разам зь імі сала.* Стары Дзедзін Мсцісл.

АБЫХО́Д, -у, *м.* 1. Штодзённы ўжытак. *Частку бульбы прыдаў, а частку пакінуў сабе ны абыход.* Сохана Мсцісл. 2. Расход. *Маю вялікі абыход на грошы.* Там жа. 3. Абход, бакавая дарога. *Цірыз балота ні праедзім, тут абыход ёсць.* Палуж Краснап.

АБЫХО́ДНІЙ, *прым.* Штодзённы, будзённы. *Гэта мыя абыходнія адзежа.* Сохана Мсцісл.

АБЫХТО́, *прысл.* Хто-небудзь, хоць хто. *Пыбяжы, сынок, ды Андрэівых і скажы, каб прышоў абыхто ды нас.* Пацолтава Мсцісл. *Кінула пы дарогі, абыхто йшоў бы — пыднял.* Старае Сяло Мсцісл.

АБЫЧА́Й, -ю, *м.* Звычай. *У нас такі ўжо абычай: на духа пол і мост явірам усьцілаць.* Каўшова Мсцісл. *А ў катле мідзяноя дно, ||У Нупрейкі дырагій абычай.* З нар. песні, М. Г. 5.

АБЫЧА́ЙНЫЙ, *прым.* Звычайны. *Кажуць, што ён такій красівый, а ён абычайный чылавек.* Слаўнае Мсцісл. *Кызалі: Максімка ды харош, прыгож, || Аж яго прыгажство абычайныя.* З нар. песні. Меншая Багацькаўка Мсцісл.

АБЫЧА́ЙНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Звычай. *Паліць цяпло ў лесе перад Купалым, ета — абычайнысьць у нашый мясцовысьці.* Каробчына Мсцісл. *У нас тыкая ўжо абычайнысьць.* Палуж Краснап.

АБЫ́ЧАЙ, -я, *м.* Звычай. *Такой у нас абычый: хто б ні прішоў у хату ў сяньнішній дзень, нада яго ўгасьціць і выпрывадзіць, як гысьця.* Бяседавічы Хоцім.

АБЫШТО́, *прысл.* Абы-што, хоць што, што-небудзь. *Ён бязь дзела ні сядзіць, абышто робіць.* Гімбатаўка Мсцісл. *Сынок мой абышто ня будзя есьці: ён піряборлівый.* Бардзіч Краснап.

АБЫЯ́К, *прысл.* Абы-як, як-небудзь. *Абыяк ды вясны дажывем.* Шыркі Расняп. *Ці ета гырыдзьба — зглымыздаў абыяк, ды ўсё.* Хвёдараўка Краснап.

АБЫЯКІ́Й, *прым.* Хоць які, абы-які. *Вінзавод бульбу абыякую, хуць мёрзлую прымаіць.* Мсціслаў.

АБЯЁДЫЦЬ, *дзеясл.* Абаедаць, есці з прагнасцю. *Выгылыдняў, дык абяёдыіць сы ўсяго гыршка.* Кокатава Мсцісл.

АБЯЗГЛУ́ЗЬДЗІЦЦА, *дзеясл.* Страціць розум, памяць [з'ехаць з глузду]. *Ці ты абязглузьдзіўся, што нічога ўжо ня помніш?* Сохана Мсцісл. *Што мне с табою рабіць? Ці скора ты супакоісься? Гэта ж абязглузьдзіцца с табою можна.* Каробчына Мсцісл.

АБЯЗГЛУ́ЗЬДЗІЦЬ, *дзеясл.* 1. Адбіць памяць, розум [адбіць глузды]. *Яго так пабілі, што саўсім абязглузьдзілі: ён чуць жыў, нічога не гаворыць.* Сохана Мсцісл. *Ударыў яго пы гылаве, дык абязглузьдзіў.* Дзіснакіта Мсцісл. 2. Збіць з панталыку, забіць [затуманіць] розум. *Абязглузьдзілі дзеўку — нічога ні сыбрыжаіць.* Хвёдараўка Краснап.

АБЯЗЬВЕ́РЫЦЦА, *дзеясл.* Абязверыцца [зняверыцца], страціць веру. *Яму ніхто ня хоча нічога пазычыць, бо ён перыд усімі абязьверыўся.* Сохана Мсцісл.

АБЯЗВЕ́ЧЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Абязвечвацца, калечыцца. *Ніхто ні станіць сам сабою абязьвечывыцца.* Сохана Мсцісл.

АБЯЗЬВЕ́ЧЫНЫЙ, *прым.* Абязвечаны, пакалечаны. *Абязьвечыный сваім суседым, Цімох страціў здароўя і ня можыць работыць.* Сохана Мсцісл.

АБЯЗВЕ́ЧЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Абязвечвацца, пакалечыцца, скалечыцца. *Ня лезь туды, там абязьвечыцца можна!* Каўшова Мсцісл. *Як зваліўся с крышы, дык абязьвечыўся саўсім: рукі й ногі пулумаў, бок выбіў.* Папоўшчына Мсцісл.

АБЯЗЬВЕ́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Абязвечыць, пакалечыць, скалечыць. *Абязьвечыў ён мяне на век.* Хвёдараўка Краснап. *Адступі, ато колам абязьвечу.* Сохана Мсцісл.

АБЯЗВІ́НІНЫЙ, *прым.* Апраўданы. *На судзе ён акызаўся саўсім абязьвініный.* Сохана Мсцісл.

АБЯЗЬВІНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Апраўдаць. *Праз суд яго толькі можна абязьвініць.* Ушакі Чэрык.

АБЯЗЬДЗЕ́ЦІЦЦА, *дзеясл.* 1. Зрабіцца бяздетным. *Ны вялікыя гора прышлось ім абязьдзеціцца, бо больш у іх дзяцей няма і ня будзець.* Сохана Мсцісл. 2. Страціць дзяцей. *Абязьдзеціліся яны: усі дзеці паўміралі.* Вожыгаўшчына Мсцісл.

АБЯ́ЗЬДЗЕ́ЦІЦЬ, *дзеясл.* Страціць дзяцей. *Было ў іх адно дзіця, і тое памерла; цяпер яны саўсім абязьдзецілі.* Каўшы Мсцісл.

АБЯЗЬДЗЕ́ЧЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Рабіцца бяздзетным. *Ёсьць хваробы, ад якіх мыладыя людзі абязьдзечывыюцца.* Сохана Мсцісл.

АБЯЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Зняць скуру з забітай жывёлы [аблупіць]. *Я сёньні зы ранык дзьве авечкі абяліў.* Шумячы.

АБЯРНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Перавярнуцца, перакуліцца. *Ехалі ны кысагоры і абярнуліс у рыўчак.* Сохана Мсцісл. *Каток пу-*

*пай у калдобіну, і воз абярнуйся.* Бяседавічы Хоцім.

АБЯРНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Перавярнуць, перакуліць. *Пымажы мне воз абярнуць.* Сохана Мсцісл. *Пацiху там цісьні, ато жэрдзь зломіцца, і воз аберніш!* Бяседавічы Хоцім.

АБЯСЬПЕ́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Абнадзеіць. *Ты ж мяне абясьпечый, абішчай зайці пы мяне, прымусій ждаць і ні зайшой. Глядзі ж ні абясьпеч мяне ныпрасна, каб ета так зрабій, як мы ўмовілісь.* Сохана Мсцісл.

АБЯСЬПІЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Абнадзейваць. *Абясьпічаеш ты мяне ні адзін раз, ды ні разу ні спойній, што абішчай.* Куравічы Мсцісл.

АБЯСЬСІ́ЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Мучыць, знішчаць сілу [знясільваць]. *На што ты кыня так абясьсілівыш етым возум, ці ні мог ты зы два разы прывезьць?* Зоры Чэрык.

АБЯСЬСІ́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Знясіліцца, страціць сілу. *Ён ішой два дні, ня еўшы, і ўжу саўсім абясьсілій, так што ня можыць ног пыцягнуць.* Арцёмаўка Міласл.

АБ'Я́ВА, -ы, *ж.* Аб'ява, абвестка. *У сельсавет аб'ява прышла.* Галкавічы Мсцісл.

АБ'ЯГО́РЫЦЬ, *дзеясл.* Ашукаць. *Ён такей некій, што яго ўсякій і малый аб'ягорыць.* Куркаўшчына Мсцісл.

АБ'ЯДЗЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Аб'ядзенне, смачная страва. *Січас мы зьдзелыім кашы: стаўчом бульбы, усыпім грэцкіх круп, зальлём маслым з цыбулькый — аб'ядзеньня будзіць.* Слаўнае Мсцісл.

АБ'Я́ЎКА, -і, *ж.* Абвестка [абвяшчэнне] праз друк. *А йдзе тут можна зьдзелыць аб'яўку, што конькі дакумант пацірай.* Мсцісл. *У волысьці аб'яўку вывісілі.* Дзіснакіта Мсцісл. *У сельсавеці аб'яўку вывісілі.* Маластоўка Краснап.

АБ'Я́ЎНІК, -а, *м.* Аб'яўнік, той, хто робіць абвестку [аб'яву]. *Хто цябе просіць аб'яўнікым быць? Самі скажым, што нада.* Дзіснакіта Мсцісл.

АВАДЗЁН, -дня, *м. заал.* Авадзень. *Праз лес ехылі, дык коні авадзён зыкусай.* Малашкавічы Клім. *Авадні ні даюць спакою конім.* Глупікі Крыч.

АВА́Й, *выкл.* 1. Азначае здзіўленне. *Авай, як хороша вышла!* Добрае Мсцісл. 2. Азначае абурэнне. *Авай! Што ты робіш, авантурнік?* Васілеўка Хоцім.

АВАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Паваліць, падужаць. *Ік абняй яго ў пол, дык авалій адразу.* Сапрынавічы Мсцісл.

АВА́НС, -у, *м.* Аванс, выплата грошай наперад, у лік заробку. *Пенсіі я йшчэ ні зырабій, хіба дырэктар аванс дасьць, ато жыць не на што.* Мсцісл.

АВАНСУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Авансаваць, даваць аванс. *Авансуваць грошы табе ня буду, бо ты мяне спыдманеш, і бульба зыстанецца ні 'бпахына.* Каробчына Мсцісл.

АВА́НСЫМ, *прысл.* Авансам, наперад, пад заробак. *Я свой заробык авансым увесь выбрай.* Клімавічы.

АВАНТУ́РА, -ы, *ж.* Дзіўнае здарэнне. *Ну і авантура ж была са мной сёньні ноччу: думай, што сьвету больш ні ўбачу!* Ушакі Чэрык.

АВАНТУ́РНІК, -а, *м.* 1. Авантурнік, ашуканец. *З Рыгорым я гуляць у карты ня буду — ён вялікі авантурнік.* Каробчына Мсцісл. 2. Дуроснік [дураслівец], свавольнік. *Авантурнікі етыя акно разьбілі, дурэючы.* Мсціслаў.

АВАНТУ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Дурэць, сваволіць. *Што вы там авантурыця? Супакойцесь!* Мсціслаў.

АВА́ПЛЕНЫЙ, *прым.* Абмазаны вапнаю. *У яго ў садзе пырадык: зімля ўскыпана, дрэвы падрэзаны, аваплены — любыта глядзець.* Малашкавічы Клім.

АВАПЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Пабяліць вапнаю. *Трэба купіць зьвёскі ды хату авапліць.* Каробчына Мсцісл.

АВЁС, аўса́, *м. бат.* Авёс. *Авёс пасьпей — жаць урэмя.* Віхраны Мсцісл. *Пры балоці коні чыста ўвесь авёс сдрысывалі.* Вожыгаўшчына Мсцісл. *Купій тры пуды аўса ны пасей.* Малашкавічы Клім.

АВЕ́ЧКА, -і, *ж.* Авечка. *Авечка мыя ня прышла с поля, няўжо іна прыпала?* Камароўка Крыч.

АВЕ́ЧЧЫЙ, *прым.* Авечы. *На руччы баба чысьціла трябух авеччый.* Гібалы Касцюк. *Авеччый гной ны гарох добра.* Малашкавічы Клім.

АВЕ́ЧЫЧКА, -і, *ж.* 1. Памянш. ад авечка. *Авечычка мыя асьлепла, нешта бяльмом зыцягнула ўсё бечка.* Брылеўка Краснап. *Авечычка: мя-мя-мя! ‖ Каровычка: му-му-му! ‖ А конічык-рігатун, ‖ А сыбачка-бріхатун.* З нар. песні, М. Г. 64. 2. Расліна з мяккім пушком. *Пыд сасонкый, на полі, растуць авечычкі; іх завуць яшчэ шурычкамі.* Хвёдараўка Краснап.

АВІ́ДЗЬ, *часц.* Вось жа. *Авідзь, пыд самым носым стаіць, а ты й ні бачыш.* Забалоцце Раснян. *Авідзь жа, за етый горкай, і наша дзярэўня.* Янаўка Мсцісл.

АВІНУВА́ЧЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Абвінавачваць. *Што ты мяне авінувачыіш? Я нічога ня ведыю па етай справе!* Пірагова Мсцісл.

АВІНУВА́ЧЫНЫЙ, *прым.* Абвінавачаны. *Чылавек ні за што зыстаўсь авінувачыный.* Малашкавічы Клім.

АВО́, *часц.* Во [вось]. *Аво і яны тут.* Мсціслаў. *Аво і яны прышлі!* Брадок Крыч. *Хто цябе абідзій? Аво ж етый маліц.* Мсціслаў.

АВО́Й, *выкл.* Выражае здзіўленне. *Авой, што ты надзелый!* Мазалава Мсцісл. *Авой! Якей у цябе андырак красівый.* Забалоцце Раснян.

АВО́СЬ, *часц.* Вось. *Авось і ні прайда, ні так було, як ты гаворыш.* Забалоцце Раснян.

АВО́СЬЦЕКА, *часц.* Вось. *Авосьцека твыя ручка, пыд лаўкый была!* Мсціслаў.

АВО́Т, *часц.* Вось. *Авот жа ні дам табе вілы, хоць забі мяне!* Каробчына Мсцісл.

АВОХЦІ, *выкл.* Ах, ай. *Авохці мне, напужай!* Сохана Мсцісл.

АВУ́НЬ, *выкл.* Вон (ужываюць, як праганяюць сабаку). *Авунь, пашлі, каб ны вас ліха! Біз палкі ні 'тбаронісьсі.* Ушакі Чэрык.

АВЫ́ЦЬ, *выкл.* Вон (кажуць, калі адганяюць парасят). *Авыць ад карыта, чужая!* Жалезніца Краснап.

АВЫЦЬКІ, *выкл.* Авыць, вон. *Авыцькі! Ні дадуць курам паесьці.* Гімбатаўка Мсцісл. *Авыцькі, чужэя, пашлі 'д карыта!* Жалезніца Краснап.

АВЯСЕЦ, аўсіцá, *м.* Памянш. ад авёс. *Авясец наш добра расьцецъ, скора выплывацъ пычанецъ.* Каўшова Мсцісл. *Пажні, дачухна, авясец, ‖ Тады к табе сватоў прынясецъ.‖ А я авясец пыжала, ‖ Сватоў у вочы ні відала.* З нар. песні, М. Г. 108.

АГА, *часц.* 1. Ага, так [выражае задавальненне]. *Ага?! Так яму і нада!* Бяседавічы Хоцім. 2. Выражае здагадку. *Ага?! Разумею, разумею!* Там жа. 3. Так [але]. *Ага, ета той самы!* Бялынкавічы.

АГАЛЕЦЬ, *дзеясл.* Збяднець, зрабіцца голым, бедным. *Ні маю нічога, саўсім агалеў.* Сохана Мсцісл.

АГАЛІЦЦА, *дзеясл.* 1. Пагаліцца. *Нада йці агаліцца, ато бырыда 'брысла.* Мсціслаў. 2. Зрабіцца голым, распранунцца да гала [загаліцца]. *Агалілыся дзевухна, як табе ні сорымна, ты ж ні мылая.* Дзіснакіта Мсцісл. *Увесь сад агаліўсь.* Б. Хутары Краснап.

АГАЛІЦЬ, *дзеясл.* 1. Агаліць, пагаліць. *Агаліў бырадy, дык мыладзей стаў.* Малашкавічы Клім. 2. Забраць усю маёмасць. *Усё зыбралі, саўсім агалілі!* Сохана Мсцісл.

АГАРАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Абгарадзіць. *Агарадзіў я свой гарод лескаю.* Сохана Мсцісл.

АГАРНУЦЬ, *дзеясл.* Агарнуць. *Агарнула сэрца жаль.* Вожыгаўшчына Мсцісл. *Жаль агарнула серца, відзючы, як ён плачыць.* Слаўнае Мсцісл. *Агарнула дзіцёнка сьвіткай.* Маластоўка Краснап.

АГАРНЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Агортваць, ахопліваць. *Мяне страх пычаў агарнывыць.* Сохана Мсцісл.

АГАРОД, -у, *м.* Агарод. *Маім нібальшэй агарод, з таго і жывём.* Мсціслаў. *Цыбуля пышыпталыся ў агародзе.* Крычаў. *Агарод засеяў ячменем, дык цяпер курэй ды віраб'ёў ні 'тыгнацца.* Малашкавічы Клім.

АГАРОДА, -ы, *ж.* Агароджа. *Кыля нашыя царквы дык зялезныя агарода.* Парадзіна Мсцісл. *Агарода рызвалілась, і сьвіньні ў сад ходзюць.* Сохана Мсцісл.

АГАРОДЖА, -ы, *ж.* Агароджа, паркан, прасла. *Каб у сад ні лазілі дзеці, трэба высокую агароджу пыставіць.* Старае Сяло Мсцісл. *Агароджа твыя рызвалілась, пуправіць нада.* Барысавічы Клім.

АГАРОДЖАНЫЙ, *прым.* Агароджаны. *Вучастак агароджан жордкамі.* Сохана Мсцісл. *Мой двор кругом агароджан пряслам.* Казённая Буда Краснап.

АГАРОДНІНА, -ы, *ж.* Агародніна. *Сёліта ўрадзіла ў нас агародніна: капуста, бруква, цыбуля — што лес.* Сохана Мсцісл.

АГАТА, -ы, *ж.* Уласнае імя Агата. *Удыва Агата кепска жывець, усягды плачыць.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Ён пашоў у прымы да Агаты.* Палуж Краснап.

АГАШНІК, -а, *м.* Матуз у штанах, замест пояса. *Агашнік пырваўсь, і штаны зьехылі.* Шыркі Раснян.

АГЛЕДЗІЦЦА, *дзеясл.* Агледзецца, пазнаёміцца з умовамі. *Тут я чылавек новы, і мне спычатку трэба агледзіцца.* Сохана Мсцісл.

АГЛЕДЧЫК, -а, *м.* Аглядчык, рэвізор. *Трэба прывесьці ўсі справы ў пырадык, ато заўтры павінен прыехаць агледчык.* Старае Сяло Мсцісл. *Агледчык зьявіўсь, што ты тут аглідзіш?* Палуж Краснап.

АГЛЕЖЫНЫЙ, *прым.* Агледжаны. *Аглежыныя намі мясцовысьць акызалысь быгатай тырфянымі балотымі. Конь, снасьць — усё аглежына, усё ў пырадку.* Сохана Мсцісл.

АГЛІДАЦЦА, *дзеясл.* Аглядацца, азірацца. *Яму скызалі іці і назад ні аглідацца.* Вожыгаўшчына Мсцісл. *Чаго ты ўсё аглідаісься? Ідзі!* Малашкавічы Клім.

АГЛІДАЦЬ, *дзеясл.* Аглядаць, рабіць агляд. *Прышла камісія ўрыджай аглідаць ны карню.* Сохана Мсцісл. *Твой чылавек там кыня аглідая.* Клімавічы.

АГЛОХНУЦЬ, *дзеясл.* Аглухнуць, зрабіцца глухім. *Тут можна аглохнуць ат етый трыскатні.* Сохана Мсцісл.

АГЛУМІЦЦА, *дзеясл.* Адурэць [атлуміцца]. *Ад такога добрыга жыцьця з ім зусім можна аглуміцца.* Старае Сяло Мсцісл.

АГЛУШЫЦЦА, *дзеясл.* Аглухнуць. *Ад гэтага гуку аглушыцца можна.* Сохана Мсцісл.

АГЛУШЫЦЬ, *дзеясл.* Аглушыць. *Як аглушылі яго, дык ён попыўзкым папоўз.* Палуж Краснап. *Аглушыў мяне етый шум.* Малашкавічы Клім.

АГЛЫБЛЯ, -і, *ж.* Аглобля. *Аглыбля сасновыя ні гадзіцца, іна ня крепкая.* Пухнава Раснян. *Ні даедзім, аглыбля зломіцца.* Мсціслаў.

АГНІШЧА, -а, *н.* Вогнішча. *Агнішча гарыць, а людзей німа.* Каўшова Мсцісл. *Кыла 'гнішча паселі кунюшкі.* Хвёдараўка Краснап.

АГОНЬ, агню, *м.* Агонь [касцёр, свет, цяпло]. *Агонь расклала, а баран ні атчыніла.* Таўстыкі Стрэш. *Патушы агонь ды спаць кладзіся.* Лешчынка Мсцісл. *Дзе гэта нашыя скалка — агню высячы, каб закурыць.* Ушакі Чэрык. *Шлі кызакі сы палону, ‖ Нясьлі агонь пыд палою.* З нар. песні. Слаўнае Мсцісл.

АГОРНУТЫЙ, *прым.* Агорнуты. *Агорнутый страхым, ён ня мог устоіць і кінуўся ўцікаць.* Сохана Мсцісл.

АГОЎТАЦЦА, *дзеясл.* Агоўтацца [супакоіцца, сцішыцца], прывыкнуць. *Спычатку трудна було, а пысьля трохі агоўтаўсь і жыву.* Мсціслаў. *Пажыў у іх месяц, другі, агоўтаўсь трохі — бачу, людзі нішто сабе.* Ушакі Чэрык.

АГРАНОМ, -а, *м.* Аграном. *Агроном завёў з намі рызгавору пры пасевы.* Палуж Краснап.

АГРЕТЫЙ, *прым.* 1. Абагрэты, ацеплены. *У агретый хаце нішто, а як цяпер у поле ны марозе?* Ушакі Чэрык 2. Агрэты, біты [ударaны, стукнуты]. *Зваліўсь ны зямлю, агретый камнім у лоб.* Лешчынка Мсцісл.

АГРЕЦЬ, *дзеясл.* Агрэць, выцяць. *Агрей яго палкый па сьпіне.* Лешчынка Мсцісл.

АГРІВАЦЬ, *дзеясл.* Абаграваць. *Адна печ агріваіць дзьве хаты.* Слаўнае Мсцісл.

АГРІМА́ДНЫЙ, *прым.* Аграмадны, вялізны. *Якій твой сын стаў агрімадный, проста дзіва, як ён вырас.* Пірагова Мсцісл. *Агрімадныя сысна пувалілісь ат ветру.* Высокі Бор Краснап.

АГРЫ́ЗЫК, -зка, *м.* Агрызак. *Яблыкі паелі, адны агрызкі пакінулі. Я кінуў агрызык яблыка.* Лешчынка Мсцісл.

АГРЫМА́ДНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Аграмаднасць, веліч, велізарнасць. *Агрымаднысьць тыкая, што страх — вокам ні ўськініш.* Вожыгаўшчына Мсцісл. *Агрымаднысьць яго зыстыўляіць усіх глядзець ны яго, калі ён ідзець па вуліцы.* Пірагова Мсцісл.

А́ГРЫСТ, -у, *м. бат.* Агрэст, яграст. *Агрыст ужо спелый, есьць можна.* Малашкавічы Клім. *Схадзі ты, Ганнычка, нашчыпай агрысту і смуродзіны.* Ушакі Чэрык.

А́ГРЫСТНІК, -а, *м.* Агрэставы куст [кусты]. *Пылавіна агрыстніку сёліта высыхла.* Шыркі Раснян. *Агрыстнікам пыкалола рукі, агрыст шчыпаўшы.* Каўшова Мсцісл.

АГРЫСТО́ВЫЙ, *прым.* Агрэставы. *Ета толькі куст агрыстовы, а ягыд на ім німа.* Ушакі Чэрык. *Агрыстовыя вареньня смачныя, але трэба шмат працуваць над ім.* Мсціслаў.

АГУ́, *выкл.* Ай-яй. *Агу, хлопчык, што ж ты тут надзелыў!* Слаўнае Мсцісл.

АГУ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Зганіць, абгаварыць. *А ніхай ты з етыю Аўдоцьцію, усякыга йна агудзіць, абгаворыць, усі ў яе нічога ні вартыя, толькі адна іна на ўвесь сьвет!* Крывы Лес Шумяц.

АГУ́КІВЫЦЦА, *дзеясл.* Агукващца, перапаклікацца, падаваць адзін аднаму голас. *Мы ў лесі будзем часта агуківыцца, штоб ні заблудзіць.* Лешчынка Мсцісл.

АГУ́КІВЫЦЬ, *дзеясл.* Агукваць, аклікаць, гукаць. *Ён будзіць агуківыць цябе ў лесі, ты слухай, штоб ні паціраццa.* Лешчынка Мсцісл.

АГУКНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Адгукнуцца, адазвацца на голас. *Я цябе гукаў, гукаў, а ты й ні агукнуўсь ні разу.* Малашкавічы Клім. *Нада было агукнуцца, як я цябе клікаў.* Лешчынка Мсцісл.

АГУ́ЛЫМ, *прысл.* Агулам, агульна. *Ды што там хунтамі вешаць — бяры агулым усё.* Старае Сяло Мсцісл. *Мой бацька прыдаў воз сена агулым. Я збожжа прыдаў агулым.* Лешчынка Мсцісл.

АГУ́ЛЬНА, *прысл.* Агулам. *Я прыдаў агульна ўсіх гусей. Агульна прыдываць тывар ні варта, лепш ны вагу.* Лешчынка Мсцісл.

АГУ́ЛЬНЫЙ, *прым.* Агульны, супольны. *Браты пыжаніліся, алі жылі разым, хызяйства мелі агульныя.* Старае Сяло Мсцісл. *Жывём у камуні, ны агульным хызяйстве.* Віхраны Мсцісл.

АГУЛЬТА́ІЦЦА, *дзеясл.* Разленавацца, зрабіцца гультаём. *Змалку агультаіўсь і цяпер ня можыць узяцца за дзела.* Лешчынка Мсцісл.

✓АГУ́НДЫР, -а, *м.* Сабачы сын (лаянка). *Пыпаўсь-такі, агундыр етый!* Малятычы Крыч.

АГУ́РА, -ы, *ж.* Неслух, непаслухмяны. *Агура хлапец, нічога ня здзелыя, што зыгыдаіш.* Маластоўка Краснап.

АГУРО́К, -рка, *м.* Гурок. *Агуркі ўжо цьвятуць; сёліта ўрыджай ны агуркі.* Дубеец Касцюк. *Выпіць ёсьць, толькі закусіць німа чым — адзін агурок, а больш нічога.* Забалоцце Раснян.

АГУРЭ́ЧНІК, -а, *м.* [Агурочнік], гуркавінне, націна гурка. *Які добры ў гэтым годзе агурэчнік, павінна быць многа гуркоў.* Нашкавічы Мсцісл. *Шельма етый агуркі павыбрыў і агуречнік павырваў.* Маластоўка Краснап.

АГЫ́ЛАДЗЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Згаладацца, знясілець ад голаду. *Дзеці чыста агыладзелі, німа ні скарынкі хлеба ў хаці.* Тур'я Краснап.

АГЫЛАШО́НЫЙ, *прым.* Агалашоны, абвешчаны. *Сярод агылашоных пымянулі і яго прозьвішча.* Сохана Мсцісл.

АГЫЛАШЭ́ННЯ, -я, *н.* Агалашэнне, аб'ява ўголас. *Аб етым было агылашэньня ў газэце і ў сельсавеце таксама.* Сохана Мсцісл.

АГЫЛЫША́ЦЬ, *дзеясл.* Агалашаць, гаварыць [зачытваць] аб'яву, паведамленне. *Пычалі агылышаць сьпіс абраных у прызідзіум.* Сохана Мсцісл.

АГЫЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Агаляцца [загаляцца], рабіцца голым. *І як ета ёй ні сорымна так агыляцца?!* Дзіснакіта Мсцісл.

АГЫЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Агаляць. *Шорнік касою агыляіць кожу ат шэрсьці.* Сохана Мсцісл.

АГЫ́НЬ, выкл. Вон [ужываецца, калі гоняць гусей]. *Агынь, гусі, агынь на выгынь.* Шумячы.

АГЫРАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Агарадзіць, загарадзіць з усіх бакоў. *Сад бальшэй, агырадзіць чаго стоіць.* Мсціслаў. *Агырадзіў свой гарод лескаю.* Сохана Мсцісл.

АД, *прыназ.* 1. Паказвае напрамак. *Ды нас ад горыду дзесіць вёрст.* Лешчынка Мсцісл. 2. Паказвае прычыну. *Ад етыга ўсё й пашло.* Бялынкавічы. *Ад малый насьмешкі ён ужо хліпыць пычынаіць.* Лешчынка Мсцісл. *Ад страху ў кыня аж храпы раздуваюцца.* Барысавічы Клім.

АДАГНУ́ЦЬ, [атагну́ць], *дзеясл.* Адагнуць, выпрастаць што-небудзь загнутае. *Адагні етый гвозд, ды забі ў сьцяну.* Папоўшчына Мсцісл.

АДАЛЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Перамагчы, падужаць. *А ну-ка! Хто каго адалеіць?* Кокатава Мсцісл.

АДА́МА, -ы, *ж.* Дама [у картах]. *Я сходзіў адаму, а ён забіў яе кыралём.* Хвёдараўка Краснап.

АДАМКНУ́ТЫЙ, *прым.* Адамкнуты, незамкнуты. *Прышоў я, аж гляжу: дзьверы адамкнуты і ў хаце нікога німа.* Іванаўка Хоцім. *Погрыб адамкнутый, ідзі біз ключа.* Затоны Раснян.

АДАМКНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Адамкнуць. *Замок пыпсуваўсь, ніяк ні адамкнуць.* Татаршчына Мсцісл.

АДАМЫВА КОСТКА. Адамава яблыка, гартанны храсток, што выдаецца напе-

рад, кадык. *Адамыва костка ета ат таго, што Адам яблык зьеў, а іна ў горлі й зыстряла, во цяпер іна й тырчыць пыд бырадою ў мужчыны.* Слабада Раснян.

АДАРВА́ЦЦА, *дзеясл.* Адарвацца. *У Васіля адарвайся ад кашулі гузік.* Зялёны Луг Мсцісл.

АДАРВА́ЦЬ, *дзеясл.* Адарваць. *Ні адарваць анучкі ад болькі — гэтак прыкарэла.* Ушакі Чэрык.

АДАТКНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Адаткнуць, дастаць затычку. *Адаткні бутэльку, бо мылако ськсіьніць.* Папоўшчына Мсцісл.

АДБА́ВІЦЦА, *дзеясл.* Зменшыцца. *Наша кынпанія адбавіцца ны пылавіну, таму што сем хлопцаў пайдзець у войська.* Лешчынка Мсцісл.

АДБА́ВІЦЬ, *дзеясл.* Збавіць, зменшыць. *Табе, брат, трэба крыху гонару адбавіць, надта ты ўжо гынарыстый стаў.* Лешчынка Мсцісл.

АДБІЗУ́НІЦЬ, *дзеясл.* Адсцёбаць бізуном, пугаю. *Нада адбізуніць кыня пугыю, можа пырухавеіць.* Слаўнае Мсцісл.

АДБІРА́ЦЬ, *дзеясл.* Адбіраць, адсартоўваць. *Ны пасеў трэба адбіраць добрыя насеньня.* Лешчынка Мсцісл.

АДБІ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Адбіцца, адламацца. *У бутэльцы горлічка адбілыся.* Хвёдараўка Краснап. 2. Адбіцца, згубіцца, адлучыцца. *Нечый жырябёнык ходзіць, відна ат маткі адбіўся.* Пірагова Мсцісл.

АДБІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Адбіць ад цэлага кавалка). *Адбій рыльца ў бутэльцы.* Мсціслаў. *Адбі ты мне крэміню, ато німа чым агню высеч.* Крывы Лес Шумяц. 2. Адбіць [адарваць прыбітае]. *Адбі ты верхнію дошку, дык дыстанеш.* Кажамякіна Краснап. 3. [Пашкодзіць, адарваць нешта ўнутры]. *Ік упаў на лёдзе, ўсі пячонкі адбіў.* Віхраны Мсцісл. *Адбіў сабе пячонкі, ўпаўшы.* Палуж Краснап. 4. Адбіць дровы, налажыць кляймо, закляйміць. *Лясьнік дровы адбіў лі школы, січас вазіць нады.* Рылаўшчына Мсцісл. *Калі ты хочаш, штоб табе скарей адбілі лес, дык нада зымасьліць лісьніку вочы, тады скора атаб'ець.* Слаўнае Мсцісл. 5. Пасланць тэлеграму. *Пісьмо ні скора дайдзець, цілігpаму адбіць нады.* Мазалава Мсцісл. 6. Адлучыць, адбіць дзяўчыну ад хлапца. *Мікола з Нютай во як любіліськ, а прыехый етый авантурнік Сашка, жыва адбіў дзеўку — за ім цяпер бегаіць.* Мсціслаў.

АДБО́Й, -ю, *м.* Сігнал, знак да заканчэння якой-небудзь справы. *Ужо быў адбой — кідайце работу!* Судзілаўка Клім. *Дос прыцываць! Ужо адбой быў.* Лешчынка Мсцісл.

АДБО́РЫШ, -а, *м.* Пласт сена. Янка *пазьбівай на лугу сухое сена ў адборышы, а тады пычаў кідаць на воз.* Куляшоўка Клім.

АДБРЫ́ЗЫК, -зка, *м.* Самае буйнае зерне, якое адскаквае ў часе веяння ўручную. *Буйныя жыта — адзін адбрызык.* Хвёдараўка Краснап. *Адбрізык сыбярі паасобку: сеіць ім будзім.* Высокі Бор Краснап.

АДБУКСУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Аддубасіць, пабіць, адбуксаваць. *Я цябе адбуксую добря, будзеш ты помніць.* Хвёдараўка Краснап. *Адбуксую я цябе за ета, глядзі!* Тур'я Чэрык.

АДБУКСЫ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Аддубасіць [пабіць], адбуксаваць. *Я яго адбуксырыў, будзе ведыць!* Хвёдараўка Краснап.

АДБЫЛДА́КЫЦЬ, *дзеясл.* Паспешна, невыразна адказаць, выказацца. *Папы 'бедню аттылдакылі, адбылдакылі.* Нова-Ельня Краснап.

АДБЫЎЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Адбаўляць, змяншаць. *Гонару ў яго хуць адбыўляй.* Галкавічы Мсцісл. *Патроху адбыўляй, штоб ні заметна было.* Крывы Лес Шумяц.

АДБЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Адбыцца, стацца, мінуцца. *Адбылося ўсё тоя, ніхай яно ня вернецца.* Судзілаўка Клім. *Адбылася паруга ныд чылавекым.* Слаўнае Мсцісл.

АДБЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Абыйсціся. *Спасібам ні (а)дбудзіш, а дні тры касіць будзіш.* Парадзіна Мсцісл.

АДВА́ГА, -і, *ж.* Адвага, смеласць. *Адвагі ў яго хуць адбыўляй, куды хош пайдзець.* Татаршчына Мсцісл.

АДВА́ЖНЫЙ, *прым.* Адважны, смелы. *Адважны нідзе ня зьгінець.* Папоўшчына Мсцісл. *Адважныму і ў цэркві добра.* Судзілаўка Клім.

АДВА́ЖЫЦЦА, *дзеясл.* Адважыцца, набрацца адвагі, смеласці. *Гэта ж трэба адважыцца — ударыць нажом аж у серца.* Лешчынка Мсцісл. *Я йшчэ ня купаўсь сёлита: ніяк ні адважусь лезьці ў ваду.* Мсціслаў.

АДВА́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Адважыць, зважыць. *Адваж мне тры хунты сахыру. Пыгадзі, вось яму нада йшчэ адважыць круп, тады й табе дам.* Мсціслаў.

АДВА́Л, -а, *м.* Паліца [у плузе], плашка над лемяхом, што адвальвае падрэзаны ім пласт глебы. *Адвал купіў, нады плуг к вясьне ладзіць.* Мсціслаў.

АДВАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Адваліць. *Адвалі етый камінь, тама есьць норка мышыныя.* Судзілаўка Клім.

АДВА́Р -у, *м.* Луг, шчолак. *Выбер попел з печкі, адвар будзем дзелаць.* Лешчынка Мсцісл.

АДВАРО́ТНА, *прысл.* Назад, наадварот. *Калі йсьці адваротна ўдвору, то неяк хутчэй, здаецца.* Нашкавічы Мсцісл.

АДВАРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Адварыць, зварыць. *Трэба бульбы адварыць к абеду.* Лешчынка Мсцісл.

АДВЕ́ДЫЦЦА, *дзеясл.* Даведацца [адведаць, пераведаць]. *Хадзіў хворыга адведыцца.* Ушакі Чэрык.

АДВІЗА́ЦЦА, *дзеясл.* Адвязацца, адчапіцца, адстаць. *І што ета за хлопіц, як прыстаніць, дык адвізацца 'д яго нільзя, як смыла ікая!* Судзілаўка Клім. *Як пычануць чыстуваць, дык ні адвяжысься — хочаш ні хочаш, а еж!* Слаўнае Мсцісл.

АДВІ́ЛЬВАНЬНЯ, -я, *н.* Адвільванне, выкручванне, ухіленне ад простага адказу. *Ты ня віляй, а проста кажы — адвільваньне табе не паможа.* Мсціслаў.

АДВІЛЬНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Ухіліцца ад простага адказу. *Ні мае ета дзела, скызаў—адвільнуўсь толькі.* Мсціслаў.

АДВІХНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Адкаснуцца. *Ён адвіхнуўся 'д яго.* Тур'я Краснап.

АДГАВО́Р, -у, *м.* Адгавор, адрайванне. *Ня слухай ты адгавору, бяры яе, ладныя жонка будзіць.* Каробчына Мсцісл. *Ну бяры біз адгавору, выпі адну чарку!* Клімавічы. *Сусед адгуварівай, штоб я ні судзіўсь, ды я ні паслухыўсь яго 'дгавору.* Палуж Краснап.

АДГАЛО́САК, -ска, *м.* Рэха, водгулле. *Лясьнік выстріліў, і пы лясу пашоў адгалосак.* Гібалы Касцюк. *У лесі рыздаецца адгалосак.* Людагошч Мсцісл.

АДГАЛО́СКА, -і, *ж.* Адгалосак, рэха. *Так закрычаў, што аж адгалоска пыніслася.* Хвёдараўка Краснап. *Сяньні харошыя (а)дгалоска: заўтрі будзіць пагода.* Дубеец Краснап.

АДГАЛО́СКІ, -сак, *мн. л.* Адгалосак, рэха, водгулле. *Стоіць толькі крікнуць у лясу, як пынясуцца па ўсіх быках адгалоскі.* Слаўнае Мсцісл. *Сяньня ўраньні дужа адгалоскі былі — пагода будзіць.* Пірагова Мсцісл.

АДГАРНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Адхіліць [адхінуць]. *Адгарнуў пасьцілку — аж там дзіцёнык.* Старае Сяло Мсцісл.

АДГО́КЫЦЬ, *дзеясл.* Адгокаць, паскакаць у волю [адгоцаць і пабудаваць]. *Бегла ны вічарінку, во ўжу думыла адгокыць там, аж на табе — ні скокуў, ні скымарохуў німа.* Арцёмаўка Міласл.

АДГО́Н, -у, *м.* Перагон, двойчы перагнаная самагонка. *Мы ў чатырох выпілі дзьве бутэлькі адгону.* Лешчынка Мсцісл.

АДГРІЗА́ЦЦА [агрызацца], *дзеясл.* Агрызацца, адгаворвацца. *Ідзі ўжо, ні адгрізайсь, бо пупадзець яшчэ.* Краснаполле.

АДГУВА́РВАЦЬ, *дзеясл.* Адгаварваць. *Сусед адгуварвыў мяне, штоб я ні судзіўся, ды я ні паслухыў яго 'тгавору.* Каробчына Мсцісл.

АДГУКНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Адгукнуцца, адазвацца. *Я яго гукнуў, а ён як бы й ня слышыць, ні адгукнуўся.* Шараеўка Чэрык.

АДГЫДА́ЦЬ, *дзеясл.* Адгадаць. *Во мыладзец, які ты адыгадлівый, ўсё ўжо адгыдаў!* Пірагова Мсцісл.

АДГЫНЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Адганяць. *Марфа ат сваe каровы й мух адгыняіць.* Гібалы Касцюк.

АДДАДЖО́НЫЙ, *прым.* Аддадзены. *Пыдатык ішчэ ні аддаджоны.* Шараеўка Чэрык. *Міла мыя дзіцятухна, || Што молыда заручона, || Што молыда заручона, || Чужым людзям аддаджона.* З нар. песні, М. Г. 95.

АДДА́ДЗЕНЫЙ, *прым.* Аддадзены. *Яны за глупства ададзены пад суд.* Лешчынка Мсцісл.

АДДА́РЫК, -а, *м.* Падарунак, што даецца ў аддар за падарунак, які быў раней. *Сапрон мне прывёз сьвінку ў аддарык.* Нашкавічы Мсцісл.

АДДА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Аддаць. *Аддай маю пушку!* Віародзькава Крыч. *Находныю вешч нады аддаць нызад.* Слаўнае Мсцісл. 2. Выдаць (замуж). *Іна ні хацела зы яго, дык сілком аддалі.* Арцёмаўка Міласл. *Аддыла мяне маці за горкыга пьяніцу.* З нар. песні. Шыркі Расням.

АДДЗЯЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Аддзяліцца, выдзеліцца. *Аддзяліўся я ад братоў і жыву адзін.* Сохана Мсцісл.

АДДЗЯЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Аддзяліць, вылучыць частку з гаспадаркі. *Мірон сына свайго аддзяліў: даў яму хату і палову маёмасьці.* Шараеўка Чэрык.

АДДО́ІНЫЯ, *прым.* Аддоеная, выдаеная, падоеная. *Карова ўжу аддоіна, гані ў стада.* Б. Хутары Краснап.

АДДУБА́СІЦЬ, *дзеясл.* Набіць, аддзяжыць, [адлупцаваць дубцом]. *Ладна аддубасілі, будзіць доўга помніць.* Мсціслаў.

АДДУДУ́РІВЫЦЦА, *дзеясл.* Аддудырвацца, адтапырвацца, адстаўляцца дудкаю. *Спадніца ў цябе нешта аддудурівыіцьца.* Хвёдараўка Краснап.

АДДУДУ́РЫЦЦА, *дзеясл.* Аддудырыцца, адтапырыцца. *Кішэня аддудурылась.* Хвёдараўка Краснап.

АДДУЛЫВА́ТЫЙ, *прым.* Адутлаваты, азызлы. *Аблічча ў яго аддулыватыя.* Горкі Краснап.

АДДЫДУ́РІЦЦА, *дзеясл.* Аддудырыцца, адтапырыцца. *У мяне балный паліц аддыдуріўся, і ніяк яго ні прігнеш.* Гібалы Касцюк.

АДДЫДУ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Аддудырыць, адтапырыць, адставіць дудкаю. *Карова хвост аддыдуріла ды як зыкнула — толькі пыл закурэў!* Гібалы Касцюк.

АДДЫЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Аддаляць. *Я буду патрохі аддыляць сьвятло, а ты глядзі.* Лешчынка Мсцісл.

АДДЫЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Аддаляцца. *Кажыцца, мы былі бліжэй ад лесу, а січас пычалі аддыляцца.* Сапрынавічы Мсцісл.

АДДЫХА́НЬНЯ, -я *н.* Адпачынак. *Ні ды аддыханьня мне цяпер, калі на полі стаіць работа.* Лешчынка Мсцісл.

АДДЫХА́ЦЬ, *дзеясл.* Адпачываць. *Я рупна дыжала сваё жыта, а цяпер буду аддыхаць.* Слаўнае Мсцісл. *Цяпер можна аддыхаць, калі ўсё паробліна.* Лешчынка Мсцісл.

АДДЫХНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Адпачыць. *Намучыліся мы ў дарозі, хочым цяпер аддыхнуць.* Пірагова Мсцісл. *Ты саўсім ужо замудохылась, ідзі аддыхні.* Сутокі Мсцісл. *Посьлі абеда нады троху аддыхнуць.* Лешчынка Мсцісл. *Дзеці ўжы ўгамываліcь, цяпер я хуць троху аддыхну.* Шараеўка Чэрык.

АДДЫ́ХЫЦЬ, *дзеясл.* Выжыць, ачуняць [вы́дыхаць]. *Мыя матка чуць-чуць аддыхыла посьлі хваробы.* Нізкі Касцюк.

АДДЫ́ХЫЦЦА, *дзеясл.* Аддыхацца. *Дай аддыхыцца, ісьці ні магу.* Камуна Расням. *Мяне ўзіла задышка, ні магу аддыхыцца.* Хвёдараўка Краснап.

АДЖА, *злучн.* А ўсё ж-такі. *Аджа ж пріехаў, хуць ні хацеў.* Мсціслаў. *Аджа я табе кызаў, што так будзя — яно й сталыся.* Судзілаўка Клім.

АДЖАЛЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Аджалкаваць, адшкадаваць, перастаць шкадаваць. *Аджалела я свайго мужыка, цяпер пірістала.* Нашкавічы Мсцісл.

АДЖА́РІЦЬ, *дзеясл.* Аджарыць, набіць, высцебаць. *Аджарыў яго тыкі добра пугыю.* Палуж Краснап.

АДЖА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Аджаць, зжаць, пачынаючы ад чаго-небудзь. *Сяньні хуць ба 'д дарогі аджаць з гоні.* Зарэчча Мсцісл. 2.

Заплаціць за што працаю жняі. *Мне ж нады і сваё зжаць, ды 'шчэ Максіму за пыхату аджаць два дні.* Селішча Чэрык.

АДЖДЖВУ́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Адсцябаць, высцебаць. *Хырашэнька аджджвучый розычкый, дык будзіць знаць, як у чужэй сад лезьць.* Горкі Краснап.

АДЖДЖУБА́СІЦЬ, *дзеясл.* Аддубасіць. *Аджджубасіў яго па сьпіне й пы гылаве — дзе пупала.* Палуж Краснап.

АДЖО́Н, -у, *м.* Аджын, заплата [разлік] за што-небудзь працаю жняі. *Аддалжы мне аўса ны аджон летым.* Каробчына Мсціcл.

АДЖЫ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Аджыць, пераажыць [пражыць жыццё]. *Аджыў я сваё, дзеткі, цяпер паміраць нады.* Белы Мох Мсціcл. 2. Вярнуцца да жыцця. *Пясклёнык быў акалеўшы, ік пылажылі ў цёплыя тряпкі, дык аджыў.* Зарэчча Мсціcл.

АДЗА́ДЗІ, *прысл.* Ззаду. *Бярі яго адзадзі і лажы на пол.* Лешчынка Мсціcл.

АДЗА́ДКУ, *прысл.* Ззаду. *Ён ішоў адзадку трошкі зы мяне.* Пірагова Мсціcл.

АДЗА́ДУ, *прысл.* Ззаду. *Пыглядзі-ка, што ў цябе адзаду цягніцца!* Гарбавічы Касцюк. *Я ўзяў яго адзаду і адразу пуваліў ны зямлю.* Лешчынка Мсціcл.

АДЗА́ДЫК, -дка, *м.* Задок, задняя частка тушкі. *Купіў цэлы адзадык цілячы.* Мсціслаў.

АДЗЕ́ЖА, -ы, *ж.* Адзежа, вопратка, адзенне. *Разьдзеўсь, сам на тэй бок паплыў, а адзежа на етым берызі 'стылась.* Старае Сяло Мсціcл. *Пыклала б ты ету адзежу ў скрыню, ато выляіцца іна тут.* Зоры Чэрык. *Справіла адзежу меськаю,|| Зыстылася мужуку сельскаму.* З нар. песні.

АДЗЕ́ЖНІК, -а, *м.* Надзежнік. *Пакрый дзежку адзежнікам.* Вярбоўка Раснян.

АДЗЕ́ЖЫНА, -ы, *ж.* Адзежына. *У старца старыя адзежына.* Лешчынка Мсціcл.

АДЗЕ́ЖЫНКА, -і, *ж.* Памянш. ад адзежына. *Ікая ў яго дырыгая адзежынка!* Лешчынка Мсціcл.

АДЗЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Адзенне. *Пыра ўжо й табе зьмяніць сваё адзеньня — знасілась ушчэнт.* Лешчынка Мсціcл. *Ох, якоя прыгожыя ў пупа адзеньня!* Пірагова Мсціcл.

АДЗЕ́РЖЫЦЬ, *дзеясл.* Стрымаць, прыпыніць. *Адзержыў кыня ды зьлез с калёс.* Нашкавічы Мсціcл. *Адзержылі злодзія.* Палуж Краснап.

АДЗЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Адзець, апрануць. *Я хацела сяньні новыя плацьця адзець, ды пагода спорцілась.* Кісялёва Буда Мілаcл. *Адзень сяньня жупан, ато бальшэй дождж— замокнеш.* Новае Сяло Мсціcл.

АДЗЕ́ІНЬНЯ, -я, *н.* Адзенне. *У горыдзі ні такея (а)дзеіньня, як ў нас. У чорным адзеіньні ходзя.* Палуж Краснап.

АДЗІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Адзяваць, апранаць. *Пашыў мне кравец кажух, што і адзіваць сорам — саўсім сапсуваў.* Барысавічы Клім.

АДЗІ́Н, аднаго, *ліч.* Адзін. *Адзін дзіцёнык памёр, другій зыхвареў — што ета за нішчасьця ны маю гылаву!* Пірагова Мсціcл. *Адзін талір пыкаціўся, другей прізыстаўся, || Знаю, знаю: мой міленькі з другою скыхаўся.* З нар. песні. Слаўнае Мсціcл.

АДЗІНА́КЫВЫЙ, *прым.* Аднолькавы. *Я пашыў сабе армяк, адзінакывый с тваім.* Лешчынка Мсціcл.

АДЗІНА́НЦЫТЫЙ, *прым.* Адзінаццаты. *Ей ужо адзінанцытый год пашоў з восіні.* Лешчынка Мсціcл.

АДЗІНА́НЦЫЦЬ, -і, *ліч.* Адзінаццаць. *Маці прыдыла адзінанцыць хунтыў грыбоў.* Лешчынка Мсціcл.

АДЗІНА́РНЫЙ, *прым.* Адзінарны, не падвойны. *Адзінарныя сукно, а так дорыга стоіць! Нада браць большы, бо ета ж адзінарный малюскін.* Маластоўка Краснап. *Трэба пышукаць лепшыга сукна, ато ета адзінарныя.* Каробчына Мсціcл.

АДЗІНЁХТЫНЬКІЙ, *прым.* Адзінёханькі, зусім адзін, адзінюткі. *Пысьля сьмерці бацькоў зыстаўся ён адзінёхтынькій.* Навасёлкі Мсціcл. *Жывець адзінёхтынькый, нікога ў яго німа.* Маластоўка Краснап.

АДЗІНЕ́Ц, -нца, *м.* Адзінец, адзінокі чалавек. *Сядзіць сабе зы сталом адзінец адзінцом: жонка памерла, ды і дзяцей бог ні даў.* Слаўнае Мсціcл.

АДЗІНО́КІЙ, *прым.* Адзінокі. *Адзінокій Іван, а справіўся разым з усімі.* Лешчынка Мсціcл. *Цяжка жыць адзінокыму чылавеку.* Селішча Чэрык.

АДЗІНО́ТА, -ы, *ж.* Адзінота. *Адзінота замучыла бедныга чылавека.* Лешчынка Мсціcл.

АДЗІНО́ЦТВА, -а, *н.* Адзінота. *Жыву я ны сваім хутары ў адзіноцтве, скушна мне, да людзей хочыцца.* Пірагова Мсціcл. *Адзіноцтва ў гроб зыгыняіць бенных людзей.* Лешчынка Мсціcл.

АДЗІНО́ЧКА, -і, *ж.* Адзіночка, што жыве адзін, адна. *Ны краю сіла жыла ўдыва-адзіночка, ды якой редка хто пріходзіў.* Лешчынка Мсціcл.

АДЗІНО́ЧНЫЙ, *прым.* Адзінокі. *Чылавек яшчэ адзіночный, ці бығата яму трэба?* Каробчына Мсціcл. *Ён адзіночны, была сістра, й та пумерла.* Маластоўка Краснап.

АДЗІРВЯНЕ́ЛЫЙ, *прым.* Адзервянелы, адубелы. *Як дзед памёр, дык я думаў, што ета ён заснуў, аж цапнуў за руку, за ліцо, дык ён ужу адзірвянелый — пальцыў ні рызагнеш.* Арцёмаўка Міласл.

АДЗІРВЯНЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Адзервянець, адубець. *Мне чуць ні прішлось адзірвянець ад стужы.* Лешчынка Мсціcл.

АДЗІЧЭ́ЛЫЙ, *прым.* Адзічэлы. *Адбілысь ад гурта авечка і пабегла, як адзічэлыя, ў поля.* Студзянец Касцюк.

АДЗІЧЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Адзічэць, зрабіцца дзікім. *Памёрлі старыкі, хата рызвалілысь, а сад біз дыгляду сусім адзічэў.* Старае Сяло Мсціcл.

АДЗНА́КА, -і, *ж.* Знак, прыкмета. *У майго кыня ёсьць адзнака — лысіна на лбу.* Лешчынка Мсціcл.

АДЗНАЧЫНЫЙ, *прым.* Адзначаны, пазначаны [з адзнакай]. *Воўк і адзначыныя ўхопіць.* Залесавічы Крыч.

АДЗНА́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Пакласці знак на што-небудзь. *Дровы ў нас пыкралі, адзначыць нада.* Мсціслаў.

АДЗНЫЧАЦЦА, *дзеясл.* Быць значным, заметным [выдзяляцца]. *Сьлед злодзія адзнычаўся ў сьнезе.* Нашкавічы Мсцісл. *Нічым ён ні адзначыўсь асобна.* Палуж Краснап.

АДЗОЛЬЛЯ, -я, *н.* 1. Вада, працэджаная праз попел [луг]. *Вылі етыя адзольля ў цугун.* Хвёдараўка Краснап. 2. Падзол (глеба). *На етым адзольлі нічога ня ўродзіць, і сеіць ня трэба.* Там жа. *Адзольля ета: на ім што сей, што не — усё роўна ня родзіць нічога.* Сялец Клім.

АДЗЫВАЦЦА, *дзеясл.* Адзывацца, адгукацца. *Ён ня хочыць адзывацца, хуць яго й клічуць.* Лешчынка Мсцісл.

АДЗЬДЗЕЛЫЦЦА, *дзеясл.* Пазбавіцца, вызваліцца. *Як прыстаў ды мяне, штоб я быў яму сьведкый, ледзь я 'т яго адзьдзелыўся.* Верамеева Мсцісл.

АДЗЬДЗЕЛЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Адрабіць зробленае, перарабіць. *Адзін відзьмак падзьдзелыў, а трэба каб другей адзьдзелыў.* Палуж Краснап. 2. Закончыць работу. *Адзьдзелыў яравіну. Адзьдзелыў хату.* Там жа. 3. Адрабіць за доўг. *У Сямёна браў кыня ны два дні, дык за ета адзьдзелыць нады — тры дні з касою летым.* Сялец Клім. 4. Збіць, пабіць. *Ну й адзьдзелылі Ліксандру: усё аблічча ўспухла.* Краснаполле.

АДЗЬДЗІРАЦЬ, *дзеясл.* Аддзіраць. *Гразі столькі нытыпталі ны масту, што ні адмыць, нада вехцім адзьдзіраць.* Хвёдараўка Краснап.

АДЗЬДЗЯЖЫЦЬ, *дзеясл.* Высцебаць дзягай. *Бацька адзьдзяжыць цябе за ета.* Высокі Бор Краснап.

АДЗЯБНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Застудзіцца. *Паехыў у горыд ды адзяб, цяпер кашліць.* Асінікі Клім. 2. Памерці ад старасці. *Адзяб ён ужо, дужа стары быў.* Хвёдараўка Краснап.

АДЗЯЛІЦЬ, *дзеясл.* Адзяліць [надзяліць], даць усім. *Сымон прынёс яблык, ігруш, дык усіх нас адзяліў, нікога не мінуў.* Малашкавічы Клім.

АДЗЯНЬНЁ, -я, *н.* Адзенне, вопратка. *Пырыскрыдаў усё сваё адзяньнё.* Тур'я Краснап.

АДКАЗ, -у, *м.* 1. Адказ, адповедзь. *Ны зыпрашэньня ён даў адказ, што ня прыедзіць.* Селішча Чэрык. 2. Адмаўленне. *Адказым дзела ні пуправіш — усе відзілі, ні 'ткажысься.* Пячоры Касцюк. 3. Запіс, тэстамант [завяшчанне]. *Юрка зьдзелыў адказ усяго хызяйства дачке.* Забалоцце Раснян.

АДКАЗВЫЦЬ, *дзеясл.* Адказваць, адмаўляць. *Прасіў я його пазычыць мне пяць рублёў, ды ён пычаў адказваць мне, я й пашоў ад яго.* Нашкавічы Мсцісл.

АДКАЗНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Адказнасць. *Кожын зы сваё паступкі адказнысьць нясець.* Усполле Раснян.

АДКАЗЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Адказваць, адмаўляць. *Нілоўка табе адказывыць, нада памоч.* Б. Хутары Краснап.

АДКАПЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Адкапваць. *Нынясло насыпу кыла пыграбні, нада іцьці адкапывыць.* Пірагова Мсцісл.

АДКАСНУЦЦА, *дзеясл.* Адкаснуцца, адчапіцца. *Адкасьніcь ты 'д мяне, чаго ты лезіш, як зыла ў вочы.* Усполле Мсцісл. *Адкасьніcь ты ад мае гылавы!* Лабаноўка Клім.

АДКАЦІЦЦА, *дзеясл.* Адкаціцца. *Пяць капеік упалі, але недзе, мабыць, адкаціліcь, што ні знайсьці.* Сялец Клім. *Ляжыць нялюбы, || Ны правый руцэ, || Ні магу ж я адкаціцца. ||Дзяўчонычка мыя люба, || Адкаціся ад нялюба: || Буду стріляці, буду лучаці.* З нар. песні. Слаўнае Мсцісл.

АДКЛАД, -у, *м.* 1. Адклад грошай. *З зыработкуў адклады дзелыў у банк, во і назьбіраў колькі сот.* Каробчына Мсцісл. 2. Адклад [адцягванне] справы. *Адклад, як кажуць, ня йдзе ў лад, нада ўраз зьдзелыць.* Селішча Чэрык.

АДКЛЕІЦЦА, *дзеясл.* Адклеіцца. *Прыляпі луччы марку, ато адклеіцца, дык пісьмо ня пойдзіць.* Пячоры Касцюк.

АДКЛІПАНЫЙ, *прым.* Адкляпаны. *Міхасёва кыса добра (а)дкліпана, дык і добра косіць.* Бязводзічы Мсцісл.

АДКУЛУПІЦЦА, *дзеясл.* Адкалупіцца, адчапіцца. *Адкулупісь ты ад мяне, ныхаба!* Галоўчыцы Клім.

АДКУЛЬ, *прысл.* Адкуль, скуль. *Ік углездзіў выўка здаліку — адкуль і спрытныcьць узілась.* Парадзіна Мсцісл. *Пытаіцца дзяўчына: || Адкуль родым, дзяціна?* З нар. песні, М. Г. 87.

АДКЫЗАЦЦА, *дзеясл.* Адказацца, адмовіцца. *Ён хацеў мне усунуць мяшок, ну я адкызаўсь.* Лешчынка Мсцісл. *Нада ж так адкызацца: ні знаю і ні ведыю, кажыць, а сам відзіў, як яго лупцувалі.* Рудня Клім.

АДКЫЗАЦЬ, *дзеясл.* 1. Адказаць, даць адказ. *Трэба тыварышу на пісьмо адкызаць.* Лешчынка Мсцісл. *Мыладзіца, мыладзіца мылыдая, || Што ня ўмела, што ня ўмела адкызаці.* З нар. песні, М. Г. 80, 2. Адказаць, зрабіць распараджэнне адносна маёмасці перад смерцю. *Паміраючы, матка дачцэ адкызала хутру.* Куляшоўка Клім.

АДКЫРАСТЫЦЦА, *дзеясл.* Адкараскацца, пазбавіцца з цяжкасцю [адчапіцца, адвязацца]. *Я чуць ад яго адкырастылась, як прістаў.* Касцюковічы.

АДЛЕГА, -і, *ж.* Адліга. *Пысьля марозу ізноў наступіла адлега: з стрех капыіць.* Лешчынка Мсцісл.

АДЛЕГЛЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Адлегласць. *Ад Мсьціслаўля ды Мазылыва нівялікыя адлеглысьць.* Мазалава Мсцісл. *Да горыду досыць вялікыя адлеглысьць: вярстоў з восімнаццыць будзець.* Гусарка Клім.

АДЛЕЖКА, -і, *ж.* Памянш. ад адлега. *Вароны літаюць, як відаць, адлежка будзя.* Тур'я Краснап.

АДЛІ, *прыназ.* 1. Каля. *Адлі рякі коні пасуцца.* Зарэчча Мсцісл. 2. *часц.* А ўсё ж [але]. *Адлі-тыкі наша ўзіла.* Татаршчына Мсцісл.

АДЛІЦЬ, *дзеясл.* Адліць, выліць нейкую частку. *Хацеў троху адліць, а вылілася многа.* Асінікі Клім. *Адлі-тка мне вадзіцы сьвянцонай* (гарэлкі). Сапрынавічы Мсцісл.

АДЛЫНУЦЬ, *дзеясл.* Адхлынуць. *Кучый кінуліcь за ім, а ўглездзіўшы ў яго лі-*

*варвер, адлынулі нызад.* Старае Сяло Мсцісл.

АДМАЎЛЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Адгавор, адрайванне. *Ні паслухыла я бацькіна адмаўлення ды й пышла зы яго.* Дзіснакіта Мсцісл.

АДМЕ́НА, -ы, *ж.* 1. Адменнік, варыянт. *Етыю песьню пяюць з адменымі; кылі свату, дак пры свата, а кылі свацьці, дак пры свацьцью.* Багацькаўка. Мсцісл. 2. Замена. *Плыхая адмена — рімяшок на лыка.* Верамеева Чэрык. *Ні патрэбна мне твыя адмена.* Лешчынка Мсцісл.

АДМЕ́ННЫЙ, *прым.* Выдатны, асаблівы. *Адменный чылавек етый Іван Пятровіч, што скажыш, і ўсё зробіць.* Лешчынка Мсцісл.

АДМЕ́РЗНУЦЬ, *дзеясл.* Адмерзнуць. *Надзень вязенкі, ато рукі адмерзнуць.* Верамеева Чэрык.

АДМЫГА́ЦЦА, *дзеясл.* Адмагацца, адмаўляцца [як мага адказвацца]. *Бацькі ўгыварыюць хлыпца жаніцца, а ён адмыгаіцца.* Б. Хутары Краснап. *Ні 'дмыгайся, бяры, калі даюць.* Рудня Клім.

АДМЫТА́ЦЦА, *дзеясл.* Адматацца, развязацца, адкруціцца. *Адмыталась абора, і лапыць з нагі спаў.* Шароўка Чэрык.

АДНА́, *ліч. ж.* Адна. *Адна добрыя хылява, а другая троху парезына.* Лешчынка Мсцісл. *Адна жонка ў хыдзяйстві ні справіцца, трэба чылядку нынянць.* Бярозаўка Клінц.

АДНАВО́КІЙ, *прым.* Аднавокі, з адным вокам. *Аднавокі Рыгор, а ладна стрыляіць.* Лешчынка Мсцісл.

АДНАГО́ДКІ, -аў, *мн, л.* 1. Аднагодкі. *Нашы хлопцы аднагодкі: ны адным месіцы радзілісь, твой толькі раней тыдні ны два.* Верамеева Чэрык. 2. *бат.* Аднагодкі, лекавая трава. *Бабы сеюць аднагодкі ны грядых паміж буракоў, а тады прыдаюць у аптэку.* Пірагова Мсцісл.

АДНАДЗЕ́НКА, -і, *ж.* Работнік, нанятына адзін дзень. *Узяў жняю-аднадзёнку.* Кокатава Мсцісл. *Наймі аднадзёнку, іна табе й зьдзелыіць.* Палуж Краснап.

АДНА́К, *прысл.* Аднак. *Круціўсь і так, і етык — аднак прыйшлось аддаць нызад.* Старае Сяло Мсцісл. *Я прасіў цябе памоч мне, аднак ты ні паслухыў.* Верамеева Клім.

АДНАКРО́ЦЬ, *прысл.* Адзін раз, аднойчы. *Аднакроць пашоў я ўночы ў горыд, а ік схадзілась крутавея, дык я чуць ні замерз.* Судзілаўка Клім. *Аднакроць я ў лесі спыткаў мядзьведзя.* Мазалава Мсцісл.

АДНА́КЫВА, *прысл.* Аднакава, аднолькава, таксама. *Сьвякрова мыя злая аднакыва, як і сьвёкар.* Парадзіна Мсцісл. *У вас вопрытка пашыта аднакыва.* Каробчына Мсцісл. *Аднакыва куды ні йці, абы ні стыяць.* Б. Хутары Краснап.

АДНА́КЫВЫЙ, *прым.* Аднакавы, аднолькавы. *Сьціпан і Васіль пашылі сабе аднакывыя піджакі.* Мазалава Мсцісл. *У вас усіх аднакывыя плацці.* Маластоўка Краснап.

АДНАЛЁЗКА, -і, *ж.* Гэбаль з адным лязом. *Адалжы ты мне свае адналёзкі, дошку нады пачысьціць.* Хвёдараўка Краснап.

АДНАЛЕ́ТЫК, -тка, *м.* Адналетак, аднагодак, блізнюк. *У Паўловіча радзілісь сыны-адналеткі.* Старае Сяло Мсцісл. *Сьціпан адналетык са мной: у адзін дзень радзілісь.* Б. Хутары Краснап.

АДНАРУ́ЧКА, -і, *ж.* Ручайка, верацяно з ніткамі [і піла з адной ручкай]. *Я сёньні ныпряла восім аднаручык.* Зоры Чэрык.

АДНАРУ́ШНІК, -а, *м.* Аднаручка, ручайка. *Я сяньні аднарушнік ныпряла досьвітку.* Палуж Краснап.

АДНАЦЕ́ПКА, -і, *ж.* Памылка пры снаванні красён. *Ня ўмеіш ты сныівяць: аднацёпык надзелыла.* Хвёдараўка Краснап.

АДНАЧА́СЬНЕ, *прысл.* Аднаго часу, аднойчы. *Усяго паспытаў — аднячасьне, праўда, і дзёгыць гнаў.* Старае Сяло Мсцісл.

АДНА́ЧЫ, *прысл.* Аднак. *Адначы ён ні віныват, калі на судзе сьведкі ні пыкызалі.* Старае Сяло Мсцісл. *Адначы ты нейк справіўсь.* Палуж Краснап.

АДНО́, *прысл.* Толькі. *Адно што вышаў ён ад'етуль, бягі — дагонім.* Каменка Раснян. *Адно глядзі ты, штоб цябе ні абмішулілі.* Пячоры Касцюк.

АДНО́ЛЬКАВЫЙ, *прым.* Аднолькавы. *У нас аднолькавыя крайкі* (паясы). Бель Мсцісл.

АДНО́СІЦЦА [атнасі́цца], *дзеясл.* Адносіцца. *Ён ды мяне так добра адносіцца, як ніхто.* Рудня Клім.

АДНЫ́М ЛЁТЫМ, *прысл.* Хутка, ураз. *Я ў адзін мамэнт, адным лётым зьбегыю.* Слаўнае Мсцісл.

АДНЫ́М МАХЫМ, *прысл.* Хутка, ураз. *Пыглядзіш, што адным махым ачынуся ў горыдзі.* Слаўнае Мсцісл.

АДНЫЧА́СНА, *прысл.* Адным часам, разам. *Аднычасна я цябе буду слухыць і дадзелываць сваю вязёнку.* Слаўнае Мсцісл.

АДО́НІШЧА, -а, *н.* Месца, на якім ставяць стог, падстожжа. *Пад стог ны адонішча трэба хвырасту.* Тур'я Краснап.

АДО́НЬНЯ, -я, *н.* Адонне, падонкі. *Коні зьелі ўсё сена, толькі адоньня зысталось.* Маластоўка Краснап. *Ты дай мне добрыга мылыка, а ня гэта адоньня.* Нашкавічы Мсцісл.

АДПА́РЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Адпорваць, распорваць, пароць. *Кравец сшыў сьвітку ды зноў пычаў адпарывыць — нядобра зьдзелыў.* Палуж Краснап.

АДПАЧЫ́НАК, -нку, *м.* Адпачынак. *Аб часе адпачынку вы згыварыцеся самі.* Мсціслаў.

АДПЕ́ТЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Адпетаваць, аддубасіць, пабіць. *Ну і адпетываў жа ён яму бакі.* Галоўчыцы Хоцім.

АДПЛО́ДЫК, -дка, *м.* Адплодак, прыплод. *Кабыла вельмі добры адплодык дыла.* Каменка Раснян.

АДПЛЯ́СВЫЦЬ, *дзеясл.* Скакаць, вытанцоўваць. *Наша дзеўка толькі і ўмея рабіць, што адплясвыць.* Будагошч Мсцісл.

АДПРА́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Пабіць, аддубасіць. *Ну і адпражыў жа Аўхім Мацея!* Галоўчыцы Хоцім.

АДПУСЬЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Адпусціць, дазволіць ісці. *Ён ня хочыць адпусьціць мя-*

*не дадому.* Лешчынка Мсцісл. *Адпусьціце мяне ўдвору, бо ўжо хлеба німа.* Мсціслаў.

АДПЫЛЫСА́ЦЬ, *дзеясл.* Адпаласаваць, выцвічыць, высцебаць. *Адпылысаў яго бізуном, будзіць доўга помніць.* Пірагова Мсцісл.

АДПЫЧЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Адпачываць. *Я ня буду больш адпычываць пысьля абеду.* Лешчынка Мсцісл.

АДРА́ЗУ, *прысл.* Адразу, ураз. *Ні хыпай адразу ўсё, бяры пы 'днаму яблыку.* Верамеева Чэрык. *Адразу пайшоў дождж.* Хоцімск.

АДРЭ́ЗАЦЬ, *дзеясл.* Адрэзаць, адкроіць. *Адреж мне ськівку хлеба.* Камароўка Крыч.

АДРО́ЗЬНІЦЬ, *дзеясл.* Адрозніць, устанавіць розніцу. *Ты слонка ат вуткі ні можыш адрозьніць.* Парадзіна Мсцісл.

АДРЫ́С, -а, *м.* Адрас. *Хацела ныпісаць пісьмо, ды адрыс пызабыла.* Пірагова Мсцісл.

АДСІКА́ЦЦА, *дзеясл.* Адсякацца, адлучацца, аддзяляцца. *Сын мой хочыць адсікацца 'д мяне.* Старае Сяло Мсцісл.

АДСКО́К, -у, *м.* Адскок [рыкашэт]. *Я стреліў у вароты, а куля дыла адскок і ў вакно.* Бяседавічы Хоцім. *З адскоку пулій ударіла.* Каробчына Мсцісл.

АДСЛУЖЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Адслужыць. *Паслужы ты мне, а я табе ўдвыя адслужу.* Глупікі Крыч.

АДСО́ТАК, -тка, *м.* Працэнт. *Мне сёліта трэба ўнесьці ў банк пяць адсоткыў зы пазычыныя грошы.* Каробчына Мсцісл.

АДСТА́ЦЬ, *дзеясл.* Адчапіцца. *Адстань ты ад мяне, вылацуга! Чаго прычапіўсь?* Паходавічы Чэрык.

АДСТУПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Адступіць, пакінуць. *Адступі ты ад яго, чаго прістаў?!* Судзілаўка Клім.

АДСУ́ЧЫНЫЙ, *прым.* Адсучаны, насуканы. *У мяне ўжо верыцень пяць нітак адсучыных.* Старае Сяло Мцісл.

АДСЬЦІГА́ЦЬ, *дзеясл.* Адсцягаць, адсцябаць. *Адсьцігаю яе лазінаю, а іна сьмяецца.* Васілеўка Хоцім.

АДСЮ́ЛЬ, *прысл.* Адгэтуль. *Адсюль да горыду будзіць яшчэ пяць вёрст.* Ташна Клім.

АДТАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Адтапіць,ператапіць, растапіць. *Трэба пыставіць сала ў печку адтапіць, тады яно ні так хутка псуецца.* Старае Сяло Мсцісл.

АДТО́ПЛІНЫЙ, *прым.* Адтоплены. *Бяры еш; там, у кукшыні, мылако адтопліныя.* Пячоры Касцюк.

АДТО́ПЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Адтопліваць, ператопліваць. *Пыставілі ў печку сьвіный здор адтоплівыць.* Старае Сяло Мсцісл.

АДТУ́ЛЬ, *прысл.* Адтуль. *Перш ты рыскажы, як ты адтуль выбраўсь.* Пірагова Мсцісл. *Адтуль прыгналі, дык ты сюды прышоў?* Сялец Клім.

АДТУ́ЛІЦЬКА, *прысл.* Адтуль. *Ён прыехаў адтуліцька.* Хоцімск.

АДУБЕ́ЛЫЙ, *прым.* Адубелы, акалелы. *Ён, увесь адубелы, ліжаў ны сьнягу.* Лешчынка Мсцісл. *Я ўвесь адубелый 'т холыду.* Краснаполле.

АДУБЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Адубець. *Хутка пысьля сьмерці ён адубеў.* Каробчына Мсцісл. *Увесь пасінеў — адубеў начыста.* Маластоўка Краснап. *Еткій мыладэй, а нада так адубець ат холыду, што аж лыткі калоцюцца.* Слаўнае Мсцісл.

АДУ́БЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* [Дубець, паміраць]. *Час прышоў адубліівыць мне, пражыў я сваё.* Палуж Краснап.

АДУБЯНЕ́ЛЫЙ, *прым.* Адубелы. *Знайшлі яго ў сьнягу, сталі рысьціраць, дык ён ужу адубянелый — ні рук, ні ног ні выпрыстыіш.* Арцёмаўка Мсцісл.

АДУБЯНЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Адубець. *Упацеўшы, ны марозі ні рызьдзівайся, ато адубянець можна і праступдзіцца.* Арцёмаўка Міласл.

АДУ́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Ачуняць. *Ляксей доўга хварэў, а цяпер адужыў.* Палуж Краснап.

АДУКО́ВЫНЫЙ, *прым.* Адукаваны, выхаваны. *Ён адуковыны, умея, як абыйсьцісь.* Маластоўка Краснап.

АДУКУВА́НЬНЯ, -я, *н.* Адукаванне. *Чымся жаніцца, атрымай раней адукуваньня.* Старае Сяло Мсцісл.

АДУКУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Адукаваць, выхаваць. *Цябе йшчэ адукуваць нады, штоб знаў, як зь людзьмі жыць.* Лешчынка Мсцісл.

АДУКЫВА́НЫЙ, *прым.* Адукаваны. *Трэба аддаць нашыга хлыпца ўчыцца, можа калі і будзя адукываным чылавекым.* Старае Сяло Мсцісл.

АДУ́Р, -у, *м.* Водур, адурэнне, затлумленне галавы. *Проста адур бярэ! Столькі работы, што гылыва кругым ідзе.* Старае Сяло Мсцісл.

АДУРЕ́ЛЫЙ, *прым.* Адурэлы. *Чаго йта Міхась, як адурелый, бегаіць цельный дзень па полі?* Малашкавічы Клім.

АДУРЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Адурэць. *У іх у хаці ат аднаго кріку дзяціныга адурець можна.* Арцёмаўка Міласл.

АДУ́РІВЫЦЬ, *дзеясл.* Абдурваць, абманваць. *Дос табе адурівыць гэтых людзей!* Лешчынка Мсцісл.

АДУ́РІНЫЙ, *прым.* Задураны, затлумлены. *Адуріна гылыва клумым, дык нічога ні сьбрыжаіць.* Слаўнае Мсцісл.

АДУРІ́ЦЬ, *дзеясл.* Задурыць [затлуміць]. *Жабіный крік гылаву адуріў.* Парадзіна Мсцісл. *Адуріў гылаву мне цыркун, не дае спаць.* Казённая Буда Краснап.

АДУРЭ́НЬНЯ, -я, *н.* Адурэнне. *Адурэньня, колькі ён даў нам вывучыць, мы ж ні справімся!* Пірагова Мсцісл.

АДУРЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Адурэць. *Адурэў ты, ці што? Малому дзіцёнку еткую ношку дываць, ён жа парвецца!* Пірагова Мсцісл. *Хляпыя дзьвярмі, як адурэў.* Хвёдараўка Краснап.

АДХАДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* [Прыходзіць у сябе]. *Конь чуць адхадзіўся на стойлі, быў такі зымырдуваный, што здохніць думалі.* Пірагова Мсцісл.

АДХАІ́ЦЬ, *дзеясл.* Адчуліць [аджывіць], выратаваць. *Замерз чылавек, насілу адхаілі.* Б. Хутары Краснап.

АДХІСНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Адхіснуцца, адрачыся. *Адхіснулысь ад мяне ўся рыд-*

*ня, кажуць — асаромiла я iх!* Пiрагова Мсцiсл.

АДХОН, -у, *м.* Адхон. *Тут будзець адхон, поiзд пайдзець хутчэй з адхону.* Нашкавiчы Мсцiсл.

АДХРЫСЬЦIЦЦА, *дзеясл.* Адвязацца, адпрасiцца. *Ат етыга радзiмца ня 'тхрысьцiсься, ня 'тмолiсься.* Палуж Краснап.

АДЦЕНЬНЯ, -я, *н.* Адценне, цень. *Ад дубка адценьня падыя.* Старае Сяло Мсцiсл.

АДЦЕРЦЬ, *дзеясл.* Адцерцi, адмыць. *Iдзi адцярi плацьця, ато ўсё ў плямых.* Булiна Касцюк.

АДЦЫРКВЫНЬНЯ, -я, *н.* Аддойванне, здойванне. *Пiряд цёлым нады зрабiць карові адцырквыньня.* Старае Сяло Мсцiсл.

АДЦЫРКЫЦЬ, *дзеясл.* Адцыркаць, здаiць, [аддаiць]. *Я ўжо ўсiх кароў адцыркыла.* Старае Сяло Мсцiсл. *Пiряд целым карову нада адцыркыць.* Б. Хутары Касцюк.

АДЦЬВIСЬЦЬ, *дзеясл.* Адцвiсцi. *Яблынi ўжо адцьвiлi, а iгрушы яшчэ цьвiтуць.* Асiнiкi Клiм. *Йдзе ж ён зацьвiцець, || Ка мне прiпляцець, || Ка мне прiпляцець, || Са мной адцьвiцець.* З нар. песнi, М. Г. 56.

АДЦЮЛЬ, *прысл.* Адсюль. *Мае бацькi далёка адцюль жывуць.* Канiчы Касцюк.

АДЦЮЛIКА, *прысл.* Адсюль. *Была далёка, адцюлiка нi вiдаць.* Рудня Клiм.

АДЦЯТЫЙ, *прым.* Адцяты, адсечаны. *Ён ужо адцяты кывалык ад сям'i.* Старае Сяло Мсцiсл.

АДЦЯЦЬ, *дзеясл.* Адцяць, адсячы. *Тапор войстрый — адным махым адцяў сук у ялiнi.* Шараеўка Мсцiсл.

АДЧАПIЦЦА, *дзеясл.* Адчапiцца, адстаць. *Адчапiсь ты ат мяне, назола, чаго ты лезiш?* Рабцова Раснян. *Адчапiсь, Янка, мне некылi.* Роськава Чэрык. *Вот прiстанiць етыя вякыла, дык нi адчапiцца.* Слаўнае Мсцiсл.

АДЧАПIЦЬ, *дзеясл.* Адчапiць. *Адчапi, братка, вожкi — зычапiлiсь зы калоду.* Кажамякiна Краснап.

АДЧУВАЦЬ, *дзеясл.* Адчуваць, чуць. *Нешта мне нiздаровiцца: адчуваю боль па ўсiм целе, косьцi ломiць, мабыць, прастудзiўсь.* Судзiлаўка Клiм.

АДЧУЛЬВЫЦЦА, *дзеясл.* Апрытомнiвацъ, прыходзiць у сябе. *Ён ужо адчульвыiцца, дайця ўады яму выпiць трошку.* Старае Сяло Мсцiсл.

АДЧУЛЬВАЦЬ, *дзеясл.* Адчульваць, прыводзiць у чуласць [прытомнасць]. *Яго было дужа цяжка адчульваць — ён зусiм замёрз.* Старае Сяло Мсцiсл.

АДЧУХЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Ачухвацца, ачульвацца. *Пычаў адчухывыцца, а думалi, памёр.* Горкi Краснап.

АДЧУХЫЦЦА, *дзеясл.* Ачухацца [i апрытомнець]. *Доўга балеў, насiлу адчухыўся.* Хвёдараўка Краснап.

АДЧУХЫЦЬ, *дзеясл.* Адхухаць, ажывiць [прывесцi ў прытомнасць]. *Зыбалеў дужа, насiлу адчухылi.* Палуж Краснап.

АДЧЫЗНА, -ы, *ж.* Айчына, радзiма, бацькаўшчына. *Свыя адчызна ўсякыму мiла.* Малашкавiчы Клiм. *Цi ўбачу я калi сваю адчызну?* Старае Сяло Мсцiсл.

АДЧЫКРЫЖЫЦЬ, *дзеясл.* Адрэзаць, адсячы. *Секшы дровы, я сабе палiц адчыкрыжыў.* Нашкавiчы Мсцiсл. *Адчыкрыжыў лусту хлеба ды пашоў.* Асiнiкi Клiм.

АДЧЫНIЦЦА, *дзеясл.* Адчынiцца. *Гляжу, чаму ета халодна так, аж дзьверы адчынiлiся, i вецер дзьме ў хату.* Селiшча Чэрык.— *А стук, пагрюк, мыя мамухна, || Адчынiся, мыя родныя.* З нар. песнi, М. Г. 143.

АДЧЫНIЦЬ, *дзеясл.* Адчынiць. *Адчынi хутчэй дзьверы!* Мсцiслаў. *Адчынi лёткi, нiхай вылiцяць пчолы пысьля зiмы.* Залесавiчы Крыч. *Адчынi скрынку i вазьмi там хусту.* Шумячы.

АДЧЫНIНЫЙ, *прым.* Адчынены. *Чаму йта пуня адчынiна, хто там быў?* Iванаўка Хоцiм. *Цi адчынiна хвортка? Каровы йдуць.* Крычаў.

АДЧЫНЯЦЬ, *дзеясл.* Адчыняць. *Стукыiм, стукыiм, а нам нiхто нi адчыняць, памёрлi яны тут, цi што, што ня чуюць.* Селiшча Чэрык.

АДШАБЫСЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Адшабасаваць, адсвяткаваць. *Яны ўжо адшабысылi.* Маластоўка Краснап. 2. Адлупцаваць. *Як толькi дызналiсi, што зрабiў ён, тады ўжо адшабысылi мы яго добра.* Каробчына Мсцiсл.

АДШКЫДЫВАНЫЙ, *прым.* Адшкадаваны, адданы з вялiкаю неахвотаю. *Адшкыдываный конь не к двару — яго прыдаць прыдзецца, хызяiн яго, вiдаць, прыдаў шкадуючы.* Старае Сяло Мсцiсл.

АДШКЫДЫВАНЬНЯ, -я, *н.* Адшкадаванне, спачуванне. *Яны толькi адшкыдываньня рабiць могуць, а так пысабiць — нiколi нi пасобюць.* Старае Сяло Мсцiсл.

АДШКЫДЫВАЦЬ, *дзеясл.* Адшкадаваць, спачуваць. *Адшкыдываць усякi можыць, а ты пысабi, калi ты такей добрый.* Нашкавiчы Мсцiсл.

АДЫБРАНЫЙ, *прым.* Адабраны. *Там лiжаць адыбраныя яблыкi, прынясi з дзiсятык.* Верамеева Чэрык.

АДЫБРАЦЬ, *дзеясл.* Адабраць. *Сайка ў мяне кырындаш адыбраў.* Мсцiслаў. *Зыступiлi ны дарозi i гвалтоўна ўсё да чыста адыбралi, як бандзiты якея.* Журбiн Бялынкав.

АДЫГНАЦЬ, *дзеясл.* Адагнаць, прагнаць. *Як ныпаў ны мяне сыбака, дык проста нi адыгнаць.* Папоўшчына Мсцiсл.

АДЫЗВАЦЦА, *дзеясл.* Адазвацца, адклiкнуцца, адгукнуцца. *Ён i нi адызваўся, як я прыходзiў ды яго.* Лешчынка Мсцiсл.

АДЫЙЦI, *дзеясл.* Адысцi. *Лепш адыйцi, чымся чыпацца з дурнiм.* Лешчынка Мсцiсл.

АДЫМАЦЬ, *дзеясл.* Адымаць, аднiмаць, змяншаць. Я патроху буду адымаць ад цябе цяжысьць. Лешчынка Мсцiсл.

АДЫРВАНЫЙ, *прым.* Адарваны. *Пыд нығамi выляiцца кусок адырваный вяроўкi.* Лешчынка Мсцiсл.

АДЫРВАЦЦА, *дзеясл.* Адарвацца. *Прiвiзаў крепка, адырвацца нi дылжна.* Клiмавiчы. *Картуз у шапцы адырваўся.* Крычаў.

АДЫРВАЦЬ, *дзеясл.* Адарваць. *Ні цягні так сілна, ты адырваць можыш.* Пячоры Касцюк. *Хлопцы клямку ў дзвірях адырвалі.* Шумячы.

АДЫСЛАЦЬ, *дзеясл.* Адаслаць. *Ці можна ета адыслаць кніжку, што мне выслалі, і ці зьвернуць грошы?* Мсціслаў.

АДЫШКА, -і *ж.* Дыхавіца, удушша. *У старыка ўжо адышка быльшая: чуць пройдзіць троху, дык і закашліўся.* Добрае Мсцісл.

АЖ, *злучн., часц.* Аж, а. *Я хацела прысьці да цябе, аж ты сыма прышла.* Лешчынка Мсцісл. *Кызалі: Іванька ды харош, пrігож, ‖ Аж яго прігажство абычайныя.* З нар. песні, М. Г. 35. *Мы так сьміялісь, аж жываты зыбалелі ат рёгыту.* Арцёмаўка Міласл. *Кылі б ета ны мяне, дык я аж ба згарела б ад стыду, а іна — хуць ба што.* Арцёмаўка Міласл. *Сядзеў я, сядзеў там, аж во лезя вор!* Палуж Краснап.

АЖАНІЦЦА, *дзеясл.* Ажаніцца, пабрацца. *Ажаніўся мыладэй, дык дзеці ўжо бальшэя.* Парадзіна Мсцісл. *З замылыда ні ўдалось ажаніцца, а січас ужо позна, жонка любіць ні будзіць.* Сялец Клім.

АЖАНІЦЬ, *дзеясл.* Ажаніць. *Ажаніў сына, думаў, што лепей будзе, аж стала хужы.* Селішча Чэрык. *Хлопіц ад рук адбіўсь, ажаніць, відна, прыдзецца.* Нашкавічы Мсцісл.

АЖНА, *часц., злучн.* Аж, ажно. *Так загрэў мне, ажна ў вачох прыцямнела.* Палуж Краснап.

АЖНО, *часц., злучн.* Аж, ажно. *У мяне ажно вочы на лоб лезьлі сы страху.* Лешчынка Мсцісл. *Дурні сваты, дурні, ‖ Заехылі ў гумны; ‖ Яны думалі, што дзеўка, ‖ Ажно сьвіньня-белка.* З нар. песні, М. Г. 40. *Я думаю: хто йта йдзець, ажно ета ты.* Сялец Клім. *Мы думалі — сваткі пяюць. ‖ Ажну воўцы бляюць.* З нар. песні, М. Г. 40.

АЖНУЦЬ, *часц., злучн.* Ажно. *Пыцягнуўсь, ажнуць гылыва зыбалела.* Рудня Клім.

АЖНЫ, *часц., злучн.* Аж, ажно. *У Хвяціса ігрішча: і пяюць, і скачуць, і крічаць, ажны хата хымянём ходзіць.* Гібалы Касцюк. *Бачыш, як дзіцёнык пялёхыіцца, ажны брызкі ны мяне ліцяць.* Ушакі Чэрык.

АЖЫНА, -ы, *ж. бат.* Ажына, ягада. *Ажына ўжу пасьпела: хлопцы пасьвілі коні і нытрапілі на куст ажыны.* Пірагова Мсцісл.

АЖЫРЯБІЦЦА, *дзеясл.* Ажарабіцца. *Мыя кабыла ажырябіцца хутка дылжна.* Ліпаўка Хоцім. *Німа чым пыхаць — кабыла ўночы ажырябілась.* Малашкавічы Клім.

АЖЫРЯБІЦЬ, *дзеясл.* Ажарабіць, прывесці жарабя. *Наша кабыла ажырябіла жарёбку.* Слаўнае Мсцісл.

АЗАДЗЬДЗЯ, -а, *н.* Азаддзе, больш лёгкае (пустое) зерне. *Азадзьдзя, тоя з задніга рукува веілкі, ні briды мішаць у мякіну, яго кыням хырашо дываць.* Арцёмаўка Міласл. *Я зьмёў азадзьдзе ў адну кучу.* Лешчынка Мсцісл.

АЗАЖ, *прысл.* Няўжо. *Азаж ты ня быў там, што пытаісьсі?* Студзянец Касцюк.

АЗАЛАЦІЦЬ, *дзеясл.* Азалаціць. *Хуць ты мяне, мой міліңкій, азалоціш, ‖ Дык ты маіх мыладых лет ні ўзвароціш.* З нар. песні, М. Г. 141.

АЗАРД, -у, *м.* Азарт, запал. *Во, ўвайшоў у азард, што й ні ўняць.* Лешчынка Мсцісл.

АЗАРДЛІВЫЙ, *прым.* Азартлівы, запальчывы, рызыкоўны. *Азардлівый Яшка як пычаў гываріць, так і режыць проста ў вочы; іму гаворяць, штоб зымыўчаў, а ён хуць ба што.* Гібалы Касцюк.

АЗВАЦЦА, *дзеясл.* Адазвацца, адгукнуцца. *Лясьнік гукаў хлыпца, а той ні азваўсь.* Забалоцце Раснян.

АЗЁЛ, -у, *м.* Марока [затлумліванне]. *Нешта ета ён сыпраўды дзелыіць? Азел адзін ета, туман у вочы пускаіць.* Гібалы Касцюк.

АЗЁЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Марочыць [затлумліваць]. *Ён майсьцірь народ азелівыць: пыкажыць і тое, чаго ні бываіць.* Лютня Краснап.

АЗІЛЯЦЬ, *дзеясл.* Марочыць, ачмураць [затлумліваць]. *Відзіў я ў ціатрі адзін ленты з роту цягніць, ета яны нейдзі азіляюць тых, хто глядзіць, ня можыць етыга быць пы праўдзі.* Арцёмаўка Міласл. *Ета ён азіляць, напускаіць на вочы туману.* Гібалы Мсцісл.

АЗІМІНА, -ы, *ж.* Азіміна (ураджай азімых). *Добрыя ў етым годзе азіміна, на ўвесь год хопіць хлеба.* Лешчынка Мсцісл.

АЗІМЫ, -аў, *мн. л.* Азімыя. *Сёліта азімы дужа добрыя.* Лешчынка Мсцісл.

АЗІРАЦЦА, *дзеясл.* Азірацца, аглядацца. *Ён бег і азіраўся пы стырынах, ці глядзіць хто.* Пірагова Мсцісл.

АЗІРК, -а. *м.* Позірк, погляд. *Кінуў азірк вокым пы хаці, дык адразу запрімеціў, хто тут сядзіць.* Горкі Краснап.

АЗІРКЫМ, *прысл.* Аглядаючыся. *Пы зыгародзьдзю азіркам пайшоў.* Горкі Краснап.

АЗІРНУЦЦА, *дзеясл.* Азірнуцца, аглянуцца. *Іна пылахліва азірнулась, ці ні глядзіць хто, ды кінулась уцікаць.* Ушакі Чэрык.

АЗІЯТ, -а, *м.* Злосны, сярдзіты чалавек. *Адступісь ты ад гэтыга азіята, ні чыпай.* Паходавічы Чэрык.

АЗНАЁМЛІВЫЦЦА, *дзеясл.* Знаёміцца. *Я зарыз жа па прыезьдзе пычаў азнаёмлівыцца з мясцовасьцю.* Старае Сяло Мсцісл.

АЗНАЁМІЦЦА, *дзеясл.* Азнаёміцца. *Азнаёмсі тут покі што з абстаноўкай, а я выскычу на хвілінку — закусіць прінісу.* Ліпаўка Хоцім.

АЗУКУВАТЫЙ, *прым.* Зухаваты, спрытны, жвавы. *Азукуватэй хлопіц, што хуш зьдзелыіць.* Баханы Чэрык.

АЗУКУВАТЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Зухаватасць, спрыт, жвавасць. *Твая азукуватысьць мяне дзівіць: і калі ты толькі спрыўляісьсі з усей гэтай работай.* Ушакі Чэрык.

АЗЫЛАЦІЦЬ, *дзеясл.* Азалаціць. *Хуць ты мяне азылаці, ну я ні пайду туды.* Пірагова Мсцісл.

АЗЫРЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Азараць, імгненна асвятляць. *Мылыдня ўсю ноч азыряла хату.* Глупікі Крыч.

АЗЬДЗІВЯ́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Выцяць [ударыць чым-небудзь грубым]. *Ні за што, ні пра што азьдзівяліў ложкый па лбу.* Слаўнае Мсцісл.

АЗЯЗЮ́ЛІНЫЙ, *прым.* Азязюлены, асалавелы. *Выпіў чарку і сядзіць, як азязюліный — нічога не відзіць кругом.* Слаўнае Мсцісл.

АЗЯЗЮ́ЛІЦЦА, *дзеясл.* Асалавець. *Ты ад аднэй чаркі пьяный стаў — азязюліўсь русім.* Каменкі Раснян.

АЗЯЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Затлуміцца, адурэць (як выпіўшы зелля). *Тут дзеці крычаць, там сьвінні пішчаць, проста азяліліся я, ня ведыю, за што хыпацца.* Пірагова Мсцісл.

АЗЯЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Затлуміць, задурыць. *Азяліла мяне нейкыя стырая і абыбрала ўсяго.* Лешчынка Мсцісл. *Азяліла мяне ета галота, куды хош дзівайсь.* Добрае Мсцісл.

АЙ, *выкл.* *Ай. Ай, якей жа ты стаў нядужы!* Баханы Чэрык. *Ай, поля, поля псяюха, ‖ Ай, чуць ні сыдраў кажуха; ‖ Ай, каб мы больш стыялі, ‖ Сыдралі б у нас сыяны.* З нар. песні, М. Г. 20.

АЙ, *злучн., часц.* Ці. *Будзім біцца ай мірыцца?* Палуж Краснап. *Ай праўду ты кажыш?* Старае Сяло Мсцісл.

АЙДЗЕ́, *прысл.* Дзе. *Айдзе ты, сынок, быў?* Іванаўка Хоцім. *Айдзе я мыгла зырабіць? Тут жа зыработкый німа.* Верамеева Чэрык. *Айдзе ты, Янка, паціраў свой ножык?* Каменкі Раснян. *Айдзе ж твой, хлопча, пыдпысык?* Палуж Краснап.

АЙКЫНЬНЯ, -я, *н.* Айканне, вохканне, стогны. *Ныдаела мне ета тваё айкыньня, чаго ты стогніш?* Слаўнае Мсцісл.

АЙКЫЦЬ, *дзеясл.* Айкаць, вохаць, стагнаць. *Хворый цельный дзень і цельныю ноч айкыіць, дужа ўжо яму цяжка.* Ліпаўка Хоцім.

✓АЙНО́, *часц., злучн.* Ажно. *Я бегма бег, айно дух зыняло, пакуль цябе дыгнаў.* Жалезніца Крыч.

АІР, -у, *м.* Аір, явар, явер, аер. *Трэба ны балота ў аір схадзіць, на пол пасыпыць — зайтрі ж духа.* Парадзіна Мсцісл.

АК, *прыназ.* К, да. *Ак вечыру ня скончым, яшчэ быгата поліва зысталося, толькі пылавінку выпылылі. Ні часта вы ак нам прыіжджаіця.* Палуж Краснап.

АКАЁМЫН, -а, *м.* Акаёман, верхалаз. *Увесь дзень, як акаёмын, лазіць па дрэвых.* Хвёдараўка Краснап.

АКА́ЗІЯ, -і, *ж.* Аказія, выпадак, здарэнне [бяда, гора, турбота]. *Гэта ж аказія з мальцым: пашоў і дагэтуль німа.* Лешчынка Мсцісл. *Сяньні са мной случылысь тыкая аказія, што ажны валосься дыбум стала.* Бяседавічы Хоцім. *Выйшла са мною ў дарозі аказія: зыблудзіўся, усёрыўна, што пьяный быў.* Слаўнае Мсцісл.

АКА́ЗЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Аказвацца. *Аказывыіцца, што нам ішчэ пыдатык прібавілі.* Каніčы Касцюк.

АКАЛЕ́ЛЫЙ, *прым.* Акалелы, змерзлы. *Дзіцёнык увесь акалелый, ніхай лезя на печку — пагрэіцца.* Старае Сяло Мсцісл. *Пагрейсь на печы, ты ж увесь акалелый.* Хвёдараўка Краснап.

АКАЛЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Акалець, змерзнуць. *Дайця пагрэцца, я саўсім акалеў, пакуль прышоў.* Прыбярэж Раснян. *Акалеў за дзень на холадзі.* Хвёдараўка Краснап.

АКАСНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Падужаць. *Ні ўдасца табе акаснуць яго, бо ён куды дужэйшы зы цябе.* Лешчынка Мсцісл.

АКАЧУРЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Умерці, здохнуць. *Паня акачурылыся ў самый дзень рывалюцыі.* Палуж Краснап.

АКАШЫЦЦА, *дзеясл.* Размясціцца, прыстроіцца. *Пыдарожныя кыла речкі акашыліся нычываць.* Нова-Ельня Краснап.

АКЕ́НЬНІЦА, -ы, *ж.* Акенніца. *Пыкрасілі акеньніцу, дык і вакно прігажэй цяпер стала.* Лешчынка Мсцісл. *Ты яго хату пызнаіш, у яго акеньніцы зялёныі.* Прыбярэж Раснян.

АКЛЕ́ІНЫЙ, *прым.* Аклеены, выклееныі. *Столь аклеіна белай бумагый, а сьцены пабеліны.* Зялёны Луг Мсцісл.

АКЛЕ́ІЦЬ, *дзеясл.* Аклеіць, выклеіць. *Нада купіць абоіў ды аклеіць сьцены, ато зьвёскі німа, штоб пыбяліць.* Рэчыца Чэрык.

АКЛУМЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Дурман, тлум. *Ны мяне ік якое аклуменьня найшло — нічогінькі ні ўцямлю.* Парадзіна Мсцісл.

АКЛУ́МІЦЬ, *дзеясл.* 1. Задурыць галаву [затлуміць]. *Аклуміў ты маю галовыньку сваімі гаворкымі.* Парадзіна Мсцісл. *Тут ніколі німа спыкаеньня, як ны бызарі ўсёдно — адурілі, аклумілі саўсім.* Арцёмаўка Міласл. 2. Ашукаць, падмануць. *Ён хітрый, абдуріць, аклуміць цябе ўраз.* Радзівонаўка Мсцісл.

АКО́ЛІЦА, -ы, *ж.* 1. Вуліца. *Пашоў ны аколіцу, там хлопцы сыбралісь.* Хвёдараўка Краснап. *Стыяць хлопцы з дзеўкымі ны аколіцы, дык і ён там.* Хоцімск. 2. Выган у канцы вёскі. *У нас ны аколіцы дзеці пасьвюць гусей, бабы мыюць бяльлё ў сажалках.* Пірагова Мсцісл.

АКО́ЛЬНЫЙ, *прым.* Наўкольны. *Акольныя дзярэўні нібальшыя, самыя быльшая, ета Мыластоўка.* Горкі Краснап.

АКПЕ́НЫЙ, *прым.* Акпёны, высмеяны. *Акпёным быць ня дужа прыемна, а злашча пірэд дзеўкымі.* Сапрынавічы Мсцісл.

АКПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Акпіць, асмяяць. *Ета ж ныстыяшчыя лахта, усякыга іна акпіць, з усякыга насьмяецца.* Прыбярэж Раснян.

✓АКРАВО́К, -аўка, *м.* Акравак, абрэзак ад лыка [скуры]. *Пыдай мне вось етый акравок, што ляжыць лі лаўкі.* Вохар Чэрык. *Спалі етыя акраўкі.* Камароўка Крыч.

АКРА́ВЫК, -аўка, *м.* Акравак. *Нады акраўкым даплесьць лапыць, пыдай мне вось той акравык.* Хвёдараўка Краснап.

АКРА́ЙКА, -і, *ж.* 1. Акраек, беражок матэрыі, абрэзаны палоскаю. *У крыўца ат мацерії зыстающца акрайкі.* Слаўнае Мсцісл. *Шавец выкрыіў жупан, сыбраў усі акрайкі і даў мальцу гуляць.* Арцёмаўка Міласл. 2. Тасёмка. *Мне зысталося прышыць толькі акрайку к спадніцы.* Старае Сяло Мсцісл.

АҚРАІНА, -ы, ж. Край, бераг (лесу, балота, поля). *Акраіна лесу зырысла густым ельнікам.* Қанічы Қасцюк.

АҚРАІЦ, -айца, м. Акраец. *Акраіц хлеба вялікій дыстаў.* Раснян. *З усяго хлеба самы смашны, гэта акраіц.* Старае Сяло Мсціcл. *Узяў у дарогу акраіц хлеба.* Палуж Краснап.

АҚРАЙЧЫҚ, -а, м. Памянш. ад акраец. *У мяне ў кішэні быў акрайчык хлеба, ім я й пыабедаў.* Қанічы Қасцюк.

АҚРАМОСЫҚ, -ска, м. Акрамосак, шматок крамнае матэрыі. *У мяне многа акрамоскыў зысталося ат плацьця, адзін акрамосык узіла Мархва.* Палуж Краснап.

АҚРАСЬЦЬ, дзеясл. Абакрасці. *Мяне хацелі акрасьць сяе ночы, ды я пачуў.* Қанічы Қасцюк.

АҚРАЎҚА, -і, ж. Акравак. *Што ты ніпытпірязыный ходзіш, хуць ба акраўкый якей пііцягнуўся.* Гаўрыленка Бялынкав.

АҚРІВАВІЦЦА, дзеясл. Акрывавіцца, акрывяніцца, разбіцца да крыві. *Глядзі дзіцёнка — ударіцца (а)б пол і акрівавіцца.* Қанічы Қасцюк.

АҚРІЯЦЬ, дзеясл. Акрыяць, аджыць, паправіцца. *Я ўжо троху акріяў ат хваробы, сам хаджу.* Слаўнае Мсціcл.

АҚРОПНА, прысл. Жудасна, страшна. *Ішоўшы кылы кладбішча, і мне стала акропна.* Қокатава Мсціcл. *Мярцьвец ліжаў ны лаўцы, і мне акропна было ны яго глядзець.* Слаўнае Мсціcл.

АҚРУГА, -і, ж. Акруга, адміністрацыйная частка [адзінка] тэрыторыі. *Наша акруга — першыя па прыдналогу.* Клімавічы. *Ны аўтамабілі нехта пріехыў, мабыць з акругі нычальства, ці што.* Мсціслаў.

АҚРУГОВЫЙ, прым. Акруговы, належачы да акругі. *Акруговый шпектыр хутка прыедзя к нам у школу.* Старае Сяло Мсціcл.

АҚРУЖНЫЙ, прым. 1. Кружны (у аб'езд). *Ды не, ета дарога акружныя, луччы ўжо цераз лес ехаць!* Пірагова Мсціcл. 2. Наўкольны. *Акружныя хутарі ўсе з аднэй дзяреўні пувухodзілі.* Боханы Смал.

АҚРЫВЕЦЬ, дзеясл. Акрывець, стаць крывым, калекай. *Сёмку дрэвым прыстукнула, і цяперыцька акрывеў.* Тур'я Краснап.

АҚРЫДАЦЬ, дзеясл. Абкрадваць. *Акрыдаюць яны мяне, ведаю я. гета, ды нічога ні магу падзелыць.* Пірагова Мсціcл.

АҚРЫМЯ, прысл. Акрамя, апрача, апроч. *Ты яшчэ, акрымя етыга, доўжын уплаціць мне тыя зытраты, што я ны цябе зрасходуваў.* Пірагова Мсціcл.

АҚСІНЬНЯ, -і, ж. Уласнае імя Аксіння. *Аксіньня, ідзі пашукай сьвіньню ды зыгані ў хлеў.* Гаўрыленка Бялынкав.

АҚСЬЦІЦЦА, дзеясл. Перахрысціцца. *Аксьцісь, табе ета пыкызалысь спрасоння.* Маластоўка Краснап.

АҚСЮТА, -ы, ж. Уласнае імя Аксіння. *Аксюту высвытылі, чыріз нядзелю будуць заручыны, а там і свадзьба скора.* Арцёмаўка Міласл.

АҚУЛЯРЫ, -раў, мн. л. Акуляры. *Дзед носіць акуляры, біз акуляраў ён нічога ні бачыць.* Гаўрыленка Бялынкав. *Дрэнна, што пабіў я сваe акуляры, зусім сьляпы стаў.* Старае Сяло Мсціcл.

АҚУРАТ, прысл. Акурат. *Ваўчок — рыба схожыя акурат на плоць.* Хвёдараўка Краснап.

АҚЦЫЯ, -і, ж. Акцыя, шанс. *Тваe, дзеўка, акцыі растуць.* Старае Сяло Мсціcл.

АҚЫЛЕЧЫНЫЙ [акалечаный], прым. Акалечаны, скалечаны. *Чыя ета акылечыныя сьвіньня хрымаіць на дзьве нагі?* Пірагова Мсціcл.

АҚЫЛЕЧЫЦЦА [акалечыцца], дзеясл. Акалечыцца, скалечыцца. *Упаў ён з страхі ны зямлю, увесь чыста акалечыўсь.* Пірагова Мсціcл.

АҚЫЛЕЧЫЦЬ [акалечыць], дзеясл. Акалечыць. *Дзіцёнык акылечыў піскленка, тый і здох.* Пірагова Мсціcл.

АҚЫМЯНЕЦЬ, дзеясл. Акамянець, зрабіцца каменем. *Лепш на месцы акымянець, чым ніпраўдую жыць.* Лешчынка Мсціcл.

АҚЫПАЦЬ, дзеясл. Акапаць, абматыжыць. *Бяры матыгу і ідзі акыпай бульбу.* Тур'я Чэрык.

АҚЫШ, выкл. Қыш (ужываецца, калі адганяюць птушак). *Акыш з гароду, ястріб вас выдзярі!* Қанічы Қасцюк. *Акыш, кыш, кыш! Пріклятыя, усі гряды пыгряблі.* Старае Сяло Мсціcл.

АҚЫЯННЫЙ, прым. Акаянны, праклятый, нягодны. *Пабіў мяне мой акыянны(э)й мужык, што трецьці дзень ні ўстаю з места.* Лешчынка Мсціcл. *Акыянныя баба, і што толькі іна ні выдумыіць.* Гаўрыленка Бялынкав.

АҚЫЯНСТВА, -а, н. Акаянства, упартасць. *Ета ж ні акыянства? Хуць ты яго ў лоп стрялі, дык ён усё сваё.* Арцёмаўка Міласл.

АЛЕ, злучн., часц. Але, толькі, так. *Ідзі, але ні баўся там, бо ждаць ні будзем.* Ліпаўка Хоцім. *Але ж думай ты — церерсе яго шукаюць і ніяк ня знойдуць.* Мсціслаў. *Але ж крепкыя ў цябе, Мікіта, задоўка.* Бязводзічы Мсціcл.

АЛЕЙ, -ю, м. Алей. *З кынопель робяць алей.* Прыбярэж Раснян. *Алей нейкі нядобры — ні пахнець саўсім.* Лабанаўка Клім. *А ці лілі алей у бульбу?* Куркаўшчына Мсціcл. *Ільля наліў алею поўную пляшку.* Гібалы Қасцюк. *Я вельмі люблю кашу з алеім, алей мне пыдыбаецца.* Шумячы.

АЛЕЙНІҚ, -а, м. Гаспадар алейні. *Қа мне пріхадзіў алейнік спрашываць, ці буду я біць алей.* Қанічы Қасцюк.

АЛЕЙНІЦА, -ы, ж. Пасудзіна на алей. *Алейніца наша прадзіравілась і цяпер некуды ўзяць алею.* Қанічы Қасцюк.

АЛЕЙНЫЙ, прым. Алейны, запраўлены алеем. *Алейныя каша смашней за поснаю.* Старае Сяло Мсціcл.

АЛЕЙНЯ, -і, ж. Алейня, завод, дзе вырабляюць алей. *Зывязі ў алейню кынапель, ніхай выб'юць алею, а жмакі каровым пойдуць.* Слаўнае Мсціcл.

АЛЕІЦ, -ейцу, м. Алеец, алей. *Вазьмі ны вакне ў пляшцы алеіц і зыпраў бульбу. У нас алеіц дужа харошый.* Қанічы Қасцюк.

АЛЕ́ІЦЬ, *дзеясл.* Алеіць, задабраць алеем. *Алеіў ты бульбу, ды мала, пыалей больш.* Старае Сяло Мсцісл.

АЛЕ́СЬ, -я, *м.* Уласнае імя Алесь. *Алесь, пыдай мне вады!* Крычаў. *Ці ні бачыў ты, Алесь, майго кыня?* Конава Хоцім.

АЛЕ́СЯ, -і, *ж.* Уласнае імя Алеся. *Алеся ўжо зысватына.* Пячоры Касцюк. *Алеся—мыя памочніца, біз яе мне цяжка было б.* Шароеўка Чэрык.

АЛЕ́ШША, -а, *н.* Алешнік, параснік вольхі. *Алешша густоя, ні прабіцца прыз яго.* Янаўка Мсцісл.

АЛЁНА, -ы, *ж.* Уласнае імя Алена. *У мяне ёсьць пляменьніца Алёна.* Пірагова Мсцісл. *У Алёны ў сарочцы прыгожыя пелікі.* Машавая Бялынкав.

АЛЁНКА, -і, *ж.* Памянш. ад Алёна. *Алёнка, дочынька мыя, пубяжы ты скорінька, купі белых нітык катушку.* Краснаполле.

АЛЁС, -у, *м.* Алешнік, параснік маладой вольхі. *Кыла дарогі мыладэй алёс, ды густэй такей.* Палуж Краснап.

АЛЁШКА, -і, *ж. бат.* Алешына, вольха. *Ныд рякой стаіць алёшка, веткі ныд вадой спусьціла.* Хвёдараўка Краснап.

АЛІ́ВА, -ы, *ж.* Аліва, вараны алей [пакост]. *Ці ёсьць у вас аліва?* Канічы Касцюк. *Паедзіш у горыд, дык купі трохі алівы, ато ўся вышла.* Гаўрыленка Бялынкав.

АЛІ́, *злучн.* Але. *Алі ж тыкая пякотка ад гуркоў — як жару хто ў сярэдзіну насыпаў.* Парадзіна Мсцісл. *Алі ж я-ткі паехыў у Мінск.* Старае Сяло Мсцісл. *Кабыла дужа хварела, алі-ткі пыднілася на ногі.* Палуж Краснап.

АЛО́ВЫК, -оўка, *м.* Аловак. *Сыну аловык нада купіць, у школу ён ходзіць.* Прыбярэж Раснян. *Ты мне купі хымічны аловык.* Старае Сяло Мсцісл.

АЛЬБО́, *злучн.* Альбо, або. *Альбо так, альбо іначый, а ўсёдно нада зьдзелыць.* Гарбавічы Касцюк.

АЛЬЛЯ́НІНА, -ы, *ж.* Льняніна, льняная пража. *Ікая тонкыя твыя альняніна.* Канічы Касцюк.

АЛЬЛЯ́НІШЧА, -а, *н.* Льнішча, месца, дзе рос лён. *Альлянішча пагнойныя, на ім можна сеіць авёс у пыпары.* Пірагова Мсцісл.

АЛЬЛЯНУ́ХА, -і, *ж.* Льнянуха, сырая капуста, запраўленая тоўчаным льняным насеннем. *Я люблю альлянуху, ды йшчэ пыд чарку.* Паланіца Крыч.

АЛЬЛЯ́НЫЙ, *прым.* Льняны. *У мяне ўсі ўборы сымытканыя: суконный андырак, тоніонькыя альліная сарочка і альляный хвартук.* Слаўнае Мсцісл. *Пашыла я сабе альлянэй хвартух, а тады яго пысініла, дык як куплінэй стаў.* Бяседавічы Хоцім.

АЛЬХО́ВЫЙ, *прым.* Альховы, зроблены з вольхі. *Сярод альховых кустоў вырас куст крушыны.* Пірагова Мсцісл. *Хоць альховы, абы новы.* Паланіца Крыч.

А́МБА, -ы, *ж.* Канец. *Тут табе й амба будзіць.* Хвёдараўка Краснап. *Як прыцісну-ла мяне, дык думаў, што амба ўжо мне.* Ліпаўка Хоцім.

АМБА́Р, -а, *м.* Свіран. *Насыпалі поўны амбар хлеба.* Гусарка Клім. *Амбар замкні і ключ у хату вазьмі.* Дзягавічы Крыч. *Яны хацелі абыкрасьць наш амбар, ды ні прішлось.* Бяседавічы Хоцім.

АМБЫРА́С, -у, *м.* Амбарас, непакойства [турбота], лішняя работа. *Толькі амбырас іці на рэчку.* Куркаўшчына Мсцісл. *Біз амбырасу ані часу.* Рэчыца Чэрык.

АМІ́Н, -у, *м.* Амінь, канец. *Памёр, большы ня верніцца — амін ужо яму.* Канічы Касцюк.

АМПЭ́Т, -у, *м.* Імпэт, напор. *Вецір ік задуў сы ўсяго ампэту, дык чуць ні 'бярнуў хату.* Кокатава Мсцісл.

ІМПЭ́ТЫМ, *прысл.* Імпэтам, напорам, сілаю. *Імпэтым вецір пывалій сасну.* Кокатава Мсцісл.

АМСЬЦІСЛА́Ў, -ўля, *м.* Мсціслаў. *Наша дзяреўня ад Амсьціслаўля ў тым баку.* Пірагова Мсцісл.

АМСЬЦІСЛА́ЎСКІЙ, *прым.* Мсціслаўскі. *Амсьціслаўскі бялышак усажын бярозымі.* Мазалава Мсцісл.

АМСЬЦІ́СЛЫЎ, -ыва, *м.* Мсціслаў. *Паехыў у Амсьціслыў паступаць у цехнікум.* Маластоўка Краснап. *Амсьціслыў — прыгожы горыд, стаіць на высокім месьці.* Старае Сяло Мсцісл.

АМУ́РЗАНЫЙ, *прым.* Замурзаны, запэцканы. *Якій ты амурзаны стаў, пряма ня вузнаць!* Канічы Касцюк.

АМУ́РЗЫЦЦА, *дзеясл.* Замурзацца, запэцкацца. *Нада ж так амурзыцца — ні відаць ні носа, ні воч.* Канічы Касцюк.

АМЦІСЛА́Ў, -ава, *м.* Мсціслаў. *Татка ў Амціслаў паехыў, прыдналог здаваць нады, дык жыта мяшок павёз.* Татаршчына Мсцісл.

АМША́РА, -ы, *ж.* Імшара, мохавае балота. *Асакі коням накосім у амшары, у Чэрач'і.* Пірагова Мсцісл.

АМШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Імшыць, пераклад-ваць мохам. *Амшыць нады добра, ато халодна хата будзіць.* Канічы Касцюк.

АМШЭ́НЬ, -я, *м.* Імшэнь, пограб з надрубленым верхам. *Зынясі ны амшэнь етыя грыбы.* Гаўрыленка Бялынкав. *Лубка ляжыць ля 'мшэня.* Палуж Краснап. *Амшэнь наш цёплый, капуста ні замірзаіць.* Селішча Чэрык.

АМЯ́ГА, -і, *ж.* Стомленасць [слабасць ад гарачыні]. *Нейкыя ны мяне амяга ныпала — проста ног ні пыцягніш.* Шумячы.

АМЯ́ГНУЦЬ, *дзеясл.* Стаміцца [аслабець ад гарачыні]. *Сколькі я тут прайшоў, а ўжо сусім амяг, далей іціць ні магу.* Канічы Касцюк. *Пакуль дывалок мех травы з поля, дык амягнуў саўсім.* Куркаўшчына Мсцісл. *Столькі вёрст прайшоўшы бяз водбуху, нядзіва й амягнуць.* Канічы Касцюк.

АМЯРЦЬВЕ́ЛЫЙ, *прым.* Змярцвелы. *Чаго ты сядзіш, як амярцьвелый?* Канічы Касцюк.

АМЯРЦЬВЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Амярцвець, замерці, зрабіцца змерлым [нежывым і страціць адчувальнасць]. *Як скызалі ёй, што сына забілі, так іна і амярцьвела.* Прыбярэж Раснян.

АНА́ДЫСЬ, *прысл.* Надоечы. *Анадысь я бачыўся зь ім: пытаў у мяне пры цябе, як ты жывеш.* Ліпаўка Хоцім. *Анадысь яшчэ я*

*бачыў яго тут.* Кісялёва Буда Мі-ласл.

АНГЕ́РКА, -і, *ж.* Кароткая адзежына на ваце. *Надзень ангерку, ато зьмерзьніш.* Шэпілава Жлобін.

АНГІЛ, -а, *м.* Ангел, анёл. *Дзіцёнык, як ангіл, такей прыгожый.* Рэчыца Чэрык. *Дунай-рэчка возьміць крушу, || А ангілы маю душу.* З нар. песні, М. Г. 118.

АНГЛІЧА́Н, -а, *м.* Ангелец [англічанін]. *Ета нейкій ні наській чылавек, англічан ці хранцуз, відзіш, і адзет ні пы-нашыму, і гыманіць ня ўмеіць.* Каробчына Мсцісл. *Хранцуз з англічаным пріехылі.* Горкі Краснап.

АНГЛІЧАНСЬКІЙ, *прым.* Ангельскі [англійскі]. *Ён пы-гарадзкому пашыў сабе англічанській касьцюм.* Старае Сяло Мсцісл.

АНДАРА́К, -а, *м.* Андарак, саматканая суконная спадніца. *Куды ты йдзеш у етый спадніцы пырванэй? Надзень андарак, ато людзі зысьмяюць.* Бель Мсцісл. *Матка выткала дачцэ андарак.* Юшкавічы Раснян.

АНДРА́К, -а, *м.* Андарак. *Халодна нешта, надзену-тка андрак, мо цяплей будзя.* Касцюшкавічы Крыч. *Як пыкрасіла ты сваю войну, дык і андрак прыгажэйшы.* Новыя Капачы Мсцісл. *Я выткала пяць губык сукна ны андракі.* Забычанне Касцюк. *Мама надзела новый андрак і хусту і пышла нейдзе.* Шумячы.

АНДРЭ́Й, -я, *м.* Уласнае імя Андрэй. *Пайдзем, Андрэй, лавіць рыбу.* Гаўрыленка Бялынкав. *Чаго ты, Андрэй, туляісься ат людзей?* Селішча Чэрык.

АНДЫРА́К, -а, *м.* Андарак. *У бабы новы андырак.* Машавая Бялынкав. *У нашых дзевык прыгожыя андыракі.* Кокатава Мсцісл. *Пашыла сабе андырак у пяць пол.* Барысавічы Клім.

АНЁ, *часц.* 1. Але [так]. *Анё, на выстаўку павёў свайго жарабца.* Таўстукі Стрэш. 2. Няўжо. *Анё, ці падумаў ты аб етым?* Там жа.

АНЕ́ЛЯ, -і, *ж.* Уласнае імя Ганна. *Анеля длі свае Мар'і ныклала поўны кубел пылытна ў пысагу.* Барысавічы Клім.

АНЗІ́НА, -ы, *ж.* Ангіна. *У хлыпца ў горлі анзіна.* Прыбярэж Раснян.

АНІ́, *часц.* Ані, ні. *Ані ня хочыцца спаць.* Слаўнае Мсцісл. *Майчы, ані пікні!* Палуж Краснап. *Спыдыбала мне а ні ель, ні сысна, || А ні ель, ні сысна, ні белыя бярёза — ||Спыдыбала мне жоўтыя івіна.* З нар. песні. Багацькаўка Мсцісл.

АНІШЧЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Збяднець. *Ён так аніичэў, што нечыга было есьці.* Палуж Краснап. *Людзі зусім анішчэлі, ні ў кога нічога ні было.* Малашкавічы Клім.

АНІЯ́К, *прысл.* Ніяк. *Ні змагу я гэтыга зьдзелыць аніяк.* Канічы Касцюк. *Яму аніяк ні ўныравіш.* Горкі Краснап.

АНІЯ́КІЙ, *прым.* Ніякі. *Лёг спаць ны масту і падлогі аніякый ні ўзяў, так на голым і заснуў.* Дубровіца Клім.

АНО́ГДЫ, *прысл.* Часамі [іншы раз]. *Аногды табе ні ўдасца етыга зрабіць, што тады?* Канічы Касцюк. *Аногды ён прыдзецъ ак нам, але ні часта.* Судзілавічы Клім.

АНТО́Н, -а, *м.* Уласнае імя Антон. *Антон адразу дыгыдаўсь, хто схуваў яго шапку.* Асінаўка Мсцісл. *Антон атмарозіў сабе вушы.* Гібалы Касцюк.

АНТО́НІХА, -і, *ж.* Жонка Антона. *Антоніха сваю Варку замуж аддыла.* Баханы Чэрык. *Антон казу вядзець, || Антоніха пыгыняіць, || Ны тыбаку зырыбляіць.* З нар. песні, М. Г. 152.

АНТО́НЬКА, -а, *м.* Памянш. ад Антон. *Пыбяжы ты, Антонька, гукні бацька — будзем сьнедаць.* Сялец Клім. *У Антонькі ды явыр ны дваре, || Сыбраў пір ні людзём ён — сабе.* З нар. песні, М. Г. 2.

АНТО́СЬ, -я, *м.* Уласнае імя Антон. *Надзеў Антось новую кашулю, дык быццам і прыгож стаў.* Малюшын Краснап. *Антось абстрыг сваю кучму, дык мыладзей стаў.* Маляцічы Крыч.

АНУ́ЧА, -ы, *ж.* Ануча. *Мама, атарві мне анучы, ато етыя пытыпталісь — дзіркі ны пятых.* Янаўка Мсцісл. *Павесь анучы на курчыну, ніхай прасохнуць.* Гібалы Касцюк. *У ста́рыка на ныгах брудныя анучы і пыдраныя лапці.* Крычаў.

АНУ́ЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад ануча. *Ніяк ня лезіць ета анучка ў сапог.* Канічы Касцюк. *Павесь сваe анучкі на печы, ато заўтрі абуіш мокрыя.* Бяседавічы Хоцім. *Дзед абуў новыя анучкі.* Машавая Бялынкав. *Тыцяна, дай мне белыя анучкі.* Прыбярэж Раснян.

АНУ́ЧНІК, -а, *м.* Анучнік, гандляр, што скупляе анучы, веташнік. *Анучнікі паехылі ў дзяржаўню — зьбірайця анучы.* Палуж Краснап.

АНУ́ЧЫНА, -ы, *ж.* Асобная ануча. *Ну і грязныя ў мяне ны назе анучына.* Канічы Касцюк. *Анучыны на ногі і тае німа, тыкая ўжо галота.* Шараеўка Чэрык.

АНУ́ЧЫНКА, -і, *ж.* Шкумацік, анучка. *Ета анучынка дужа чысьцінькыя.* Канічы Касцюк. *Зывяжы паліц вось етыю анучынкаю.* Гаўрыленка Бялынкав.

А́НЦІК, -а, *м.* Прыгожы, прыгожая. *Вун пашоў анцік* (на дзеўку кажуць). Хвёдараўка Краснап.

АНЦІМО́НІЯ, -і, *ж.* Доўгая пустая гутарка [разважанне]. *Што ты тут анцімонію разводзіш? Ідзі двору!* Хвёдараўка Краснап.

АНЦІРЕ́С, -у, *м.* Інтарэс, цікавасць, карысць. *Вялікі мне анцірес дырма табе работыць.* Слаўнае Мсцісл. *Аніякыга мне анціресу няма туды ісьці.* Азерцы Клім.

АНЦІ́ХРІСТ, -а, *м.* Антыхрыст, бязбожнік, адшчапенец. *Анціхріст ты, і бога ні баісься, і душы ні маеш.* Канічы Касцюк. *У цэрькву ні ходзіць анціхріст еты.* Краснаполле.

АНЦЫЛЕ́РЫЯ, -і, *ж.* Артылерыя. *На вёсцы пынаехыла анцылерыя.* Прыбярэж Раснян.

АНЫГДА́, *прысл.* Часамі [іншы раз]. *Сёньні добры абед, аныгда і етыга ня бывае.* Канічы Касцюк.

А́НЬГЫЛЬ, -а, *м.* Ангел, анёл. *Сёння дзень майго аньгыла.* Мазалава Мсцісл. *Дзе ты ета возьміш, аньгыл зь неба прінясець?* Б. Хутары Краснап.

АНЬЦІ́СЛЫЎ, -ыва, *м.* Мсціслаў. *У Аньціслыве, кажуць, цехнікум адкрыўсь,*

*дык хлопцы думаюць ехыць паступаць.* Маластоўка Краснап.

АНЯГО́, *прысл.* Няўжо. *Аняго ж ты мне ні дасі і куска хлеба?* Канічы Касцюк. *Аняго ж ты ні бачыў?* Селішча Чэрык.

АНЯЎЖО́, *прысл.* Вядома, так, але (у сэнсе сцвярджальным). *Ці быў ты ў дваре? Аняўжо ж.* Палуж Краснап.

АНЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Абняць, захапіць. *Сьмех аняў усіх, што ні маглі ўстрымацца.* Хвёдараўка Краснап. *Ік аняў мяне страх, проста ногі ня йдуць.* Гаўрыленка Бялынкав.

АПА́КЫСЬЦІЦЦА, *дзеясл.* Апакасціцца, запляміцца маральна, страціць давер'е, апаскудзіцца. *Нада ж так гыварыць, ні падумаўшы, апакысьціўсь толькі.* Слаўнае Мсцісл.

АПАЛО́ШЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Абдурыць, затуманіць галаву. *Яны яе зусім апалошылі: стаіць як дурная.* Лапаціна Мсцісл. 2. Перапалохаць. *Саўсім хлыпца апалошылі — увесь дрыжыць ат страху, нада ж ета.* Там жа.

АПА́РА, -ы, *ж.* Мякіна або вотрубі, запараныя ў печы, на корм жывёле. *Ці нагытувала ты сьвіньнім апары? Не йшчэ!* Палуж Краснап.

АПА́СКА, -і, *ж.* Непакой, небяспека, страх. *Мяне апаска бярэць кыля етыга магільніку.* Канічы Касцюк.

АПАСКУ́ДЖАНЫЙ, *прым.* Запаскуджаны, заплямлены, запэцканы. *Хвартух твой надта ўжо запаскуджыный.* Слаўнае Мсцісл.

АПАСКУ́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Запэцкацца, запляміцца, абняславіцца. *Ня бегай, дзеткі, лі калёс — апаскудзісьсі.* Лінь Крыч. *Сусед наш нядобры чылавек, зь ім ня доўга й апаскудзіцца.* Канічы Касцюк.

АПАСКУ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Запэцкаць, запляміць, абняславіць. *Ні чыпай, ато рукі апаскудзіш!* Лінь Крыч. *Ён мяне нізашто хацеў апаскудзіць.* Канічы Касцюк.

АПА́СЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Апасацца, сцерагчыся. *У етым лесі нада хадзіць ды апасывыцца — тут многа ваўкоў.* Канічы Касцюк.

АПА́СЬЛІВА, *прысл.* Небяспечна. *Апасьліва ехыць уночы цераз Чалый Лог — там ваўкі бываюць.* Пірагова Мсцісл.

АПА́СЬЛІВЫЙ, *прым.* Небяспечны, ненадзейны. *Ты асьцярожней лезь у пограб, там лесьніца дужа апасьлівыя.* Пірагова Мсцісл.

АПЕ́КА, -і, *ж.* Апека. *Я ні хачу пыдпыдаць пыд яго апеку, сам як-нібудзь выкручуся.* Слаўнае Мсцісл.

АПЕКУВА́ЛЬНІК, -а, *м.* Апякун. *Пысьля сьмерці Івана апекувальнікым ныд дзяцьмі зыстаўся Сідар.* Каробчына Мсцісл.

АПЕ́КУН, -а, *м.* Апякун. *Радзівоныў апекун саветыіць прыдаць бычка і купіць цёлку.* Палуж Краснап.

АПЕ́НКА, -і, *ж. бат.* Грыб-апенька. *Кыла пнёў було многа гыварушык. Я перша падумыла, што ета апенкі; толькі гыварушкі смакым ня хужы апеных.* Арцёмаўка Мілаcл.

АПЕРІЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Апераджаць, выпярэджваць. *Позна аперіжаць таго сеньня, хто пашоў учора.* Канічы Касцюк.

АПЕРІЗА́ЦЦА, *дзеясл.* Аперазацца, падперазацца. *Надзеў тулуп, аперізаўсь рэмням і паехаў у лес.* Пірагова Мсцісл.

АПЕРІЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Аперазаць, падперазаць [і лупнуць пугаю]. *Ці можна мне твой пыяс аперізаць?* Судзілава Клім. *Апіражым мы цябе зылатым пыяском.* Пірагова Мсцісл.

АПЕ́Ч [абпе́ч], *дзеясл.* Апячы. *Кычырга так нагрелыся, што руку апеч можна, вельмі ж гырачыя.* Селішча Чэрык. *Апёк руку, дык садніць дужа.* Куляшоўка Клім.

АПЕ́ШЫНЫЙ, *прым.* Апяшалы [разгублены]. *Ні чыкаў такога, пайшоў, ік апешыный.* Краснаполле.

АПЕ́НЫК, -нка, *м.* Апенька. *Сяньня ў лесі ні нышла ніводныга дайжа апёнка.* Канічы Касцюк.

АПЁНЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад апёнак. *Кыля гэтыга пню вельмі добрыя апёнычкі.* Канічы Касцюк.

АПІВА́НЬНЯ, -я, *н.* Апяванне, адправа набажэнства па нябожчыку. *Апіваньня на Рыгорывай магілкі будзя ны радуніцу.* Мазалава Мсцісл.

АПІКУВА́ЛЬНІК, -а, *м.* Апекавальнік, апякун. *А табе якоя дзела, што ты мой апікувальнік ці што? Што хачу, тое й раблю.* Рэчыца Чэрык.

АПІ́ЛЫЧЫК, -чка, *м.* Апілачак, адпілованы кавалак дрэва. *Ад дрэва адрезылі добры апілычык.* Канічы Касцюк.

АПІЛЬСІ́Н, -а, *м.* Апельсін. *Апільсіныў быгата прівезьлі ў кыпіріцію.* Краснаполле.

АПІНА́ЛКА, -і, *ж.* Вялікая хустка. *У кыпіраціў прывезьлі апіналкі, нада купіць сабе, бо мыя ўжо старыя, ня грэіць.* Ліпаўка Хоцім. *А скольки каштуя гэта апіналка?* Рагачоў.

АПІ́ТКІ, -ыў, *мн. л.* Недапітая чарка (рэшткі пітва). *Ні хочу піць: тут адны апіткі, налівай новую чарку.* Горкі Краснап.

АПЛА́ТА, -ы, *ж.* Аплата, плата. *Аплата зы працу вельмі кепскыя стала.* Канічы Касцюк.

АПЛАЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Аплаціць, заплаціць. *Трэба яму аплаціць за ету працу.* Канічы Касцюк.

АПЛА́ЧЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Аплочваць. *Раз дзяржыш бытрыка — нада яму аплачывыць.* Слаўнае Мсцісл.

АПЛА́ЧЫНЫЙ, *прым.* Аплочаны. *Гэты вексыль ужо аплачынэй.* Канічы Касцюк.

АПЛА́ШЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Аплашацца, хібіць, здаваць. *Ня приходзіцца аплашывыцца, трэба увесь час працуваць.* Канічы Касцюк.

АПЛАШЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Схібіць, здаць. *Калі аплашыцца мне, дык уся справа загініць.* Канічы Касцюк.

АПЛІТА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Аплятаць. *Гаршкі ўсі пыразваріваліcь — аплітаць нада.* Шараеўка Чэрык. 2. Прагна есьці. *Налілі Янку міску бульбы, ну і стаў ён яе аплітаць.* Канічы Касцюк.

АПЛЫНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Заплыць гразёю, згладзіцца. *Ні аплыне наш сьлед.* Хвёдараўка Краснап. *Учора йшлі тут, а сьледу німа, аплынуў саўсім.* Асінікі Клім.

АПЛЮГА́ВІЦЦА, *дзеясл.* Забрудзіцца [зрабіцца нікчэмным]. *Аплюгавіўсь, апусь-*

*ційся, аж сорамна глянуць ны яго!* Пірагова Мсцісл.

АПЛЮГА́ВІЦЬ, *дзеясл.* Забрудзіць, абняславіць [зрабіць нікчэмным]. *Аплюгавій ён мяне, як бы я ўжо і нічога ні вартый.* Асмолавічы Мсцісл.

АПЛЮГА́ЎЛІНЫЙ, *прым.* Забруджаны, абняслаўлены. *Ні жанісь ты зь ёю: аплюгаўліныя ж іна, абгаворыныя з усіх бакоў.* Пірагова Мсцісл.

АПО́ЕК, -ойка, *м.* 1. Адкормленае цяля. *Зарезый цялёнка-апойка.* Палуж Краснап. 2. Вырабленая цялячая скура. *Чыбаткі сабе сшыла з апойка.* Хвёдараўка Краснап.

АПО́ЗЬНІВЫЦЦА, *дзеясл.* Апознівацца, пазніцца. *Ня трэба апозьнівыцца, ато цёмна будзець.* Канічы Касцюк.

АПО́ІВЫЦЬ, *дзеясл.* Апойваць. *Ні нада цялёнка апоівыць, ні здарова ета.* Слаўнае Мсцісл.

АПО́ЙКА, -і, *ж.* Апоек. *Зь етыя апойкі двоя ботаў можна сшыць.* Маластоўка Краснап.

АПО́КА, -і, *ж.* Гультай, абібок [і цяжкое сукаватае бервяно]. *Апока век зы работу ні бярэцца.* Кокатава Мсцісл. *Чаго ляжыш, апока ты нішчаснэй!* Паўлавічы Клім. *Апока етый, нічога ні зработыя.* Хвёдараўка Краснап.

АПО́ЛАК, -лка, *м.* Аполак. *Трэба атрэзаць аполак ды перымасьціць у хаце.* Канічы Касцюк. *Етый аполак ны забор гадзіцца.* Тур'я Чэрык.

АПО́МНІЦЦА, *дзеясл.* Апамятавацца, схамянуцца. *Апомнісь, на што ты ета дзеріва зрубій, яно нам карысьць прінасіла!* Канічы Касцюк.

АПО́РЫК, -рка, *м.* Апорак, атопак, бот без халявы. *Дзе йта мой апорык задзеўсь? Адзін ёсьць, а другога німа.* Верамеева Чэрык. *Надзеў нейкія апоркі, што глядзець стыдна.* Брылёўка Краснап. *Надзеў на ногі апоркі, ды так і ходзіць у апорках.* Хвёдараўка Краснап.

АПО́СЬЛІ, *прысл.* Пасля, потым. *Цяпер пупрацуім, апосьлі будзем сядзець.* Канічы Касцюк.

АПО́ЧЧА, -а, *н.* Паленне, што колецца кепска. *Вот апочча, ніяк ні разьбіць.* Паланіца Крыч.

АПО́ЧЫНА, -ы, *ж.* 1. Гультаішча. *Апочына етыя толькі ны пячы ляжыць, хуць ба дроў нарубаў ны заўтра.* Асінікі Клім. 2. Палена, што кепска колецца, [набраклае бервяно]. *Етыю апочыну дык і ні расколеш, бач ікая сукыватыя.* Лінь Крыч.

АПО́ШНІЙ, *прым.* Апошні, астатні. *У апошні раз я паеду ў горыд.* Лешчынка Мсцісл. *Каноплі бяруць і бульбу кыпаюць увосень; гэта дзьве апошнія гародныя працы.* Пірагова Мсцісл.

АППА́РЫК, -рка, *м.* Венік, апараны гарачаю вадою [парай]. *Вазьмі аппарык ды пыдмяці хату.* Хвёдараўка Краснап.

АППА́РЫЦЬ, *дзеясл.* Апарыць, абварыць. *Аппарый сабе руку.* Хвёдараўка Краснап.

АППЕ́Ч, *дзеясл.* Апячы. *Ня еж жаркыга, а студзі, каб ні аппеч у році.* Слаўнае Мсцісл.

АППІРА́ЦЦА, *дзеясл.* Абапірацца. *Вылымый ты сабе кіёк, будзіш аппірацца, дык іці будзіць луччы.* Слаўнае Мсцісл.

АППУПА́ШЫЦЦА, *дзеясл.* Абпапашыцца, спудлаваць, не папасці ў цэль. *Аппупашыўсь я пупасьць у цэль.* Хвёдараўка Краснап.

АППЫ́РСКЫЦЬ, *дзеясл.* Апырскаць, запырскаць. *Кылі рукамоўніка ўсю сьцяну аппырскылі.* Сутокі Мсцісл. *Аппырскыла яго вадою.* Палуж Краснап.

АПРАБО́ЎВЫЦЬ, *дзеясл.* Спрабаваць [выпрабоўваць]. *Купіў новыя ружжо і пычаў яго апрабоўвыць, як яно стрыляіць, дык чуць сабе вочы ня высмаліў.* Старае Сяло Мсцісл.

АПРАБУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Выпрабаваць. *Раньшы, кыня купляўшы, нада яго апрабуваць хырашэнька.* Паланіца Крыч.

АПРА́ВА, -ы, *ж.* Аправа. *У абрызах аправа была зылытая.* Слаўнае Мсцісл. *Кніга ў скураной аправі.* Гаўрыленка Бялынкав.

АПРАНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Апрануцца, адзецца. *Сяньні цяплей нада будзець апрануцца ны нашлег, ато ўчоры халодна было.* Стары Дзедзін Міласл.

АПРАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Апрануць, адзець. *Апрануў бы ты, Тодар, хуць кажушок, усё цяплей було б.* Машавая Бялынкав.

АПРАЦО́ЎВЫЦЬ, *дзеясл.* Апрацоўваць. *Прыехаўшы з горыду, ён зараз пычаў апрацоўвыць кожу, каб хутчэй зрабіць боты.* Старае Сяло Мсцісл.

АПРІ́Ч, *прысл.* Апрача, апроч [асобна]. *Апріч етыга тыдню, увесь час пагода была добрыя.* Канічы Касцюк.

АПРІЧО́НЬНІК, -а, *м.* Асобніна, прыгатаванае што-небудзь асобна. *Нечыга там апрічоньнікі гатуваць, ніхай есьць з усімі разым.* Пірагова Мсцісл.

АПРІЧО́НЬНЯ, -я, *н.* Асобніна, прыгатаванае асобна. *Што ты тут апрічоньня заводзіш? Адны будуць сала есьць, а другія постуваць?* Пірагова Мсцісл.

АПРО́Ч, *прысл.* Апрача, апроч. *Апроч сваіх, пріехылі і з горыду.* Арцёмаўка Міласл. *Апроч нас, і Янка ня ведаў у лясу дарогі.* Канічы Касцюк. *Апроч мужыка, іна яшчэ бахыря маіць.* Слаўнае Мсцісл.

АПРЫ́КНУЦЬ, *дзеясл.* Апрыкраць, абрыднуць, надакучыць. *Ды дос табе ўжу вярхыць, апрыкла, пакінь!* Старае Сяло Мсцісл.

АПРЫ́КРЫЦЦА, *дзеясл.* Апрыкраць, абрыднуць. *Я думаю, што я ўжо апрыкрыўсь вам, штодзень ходзючы. Ой, што ты, не!* Рэчыца Чэрык.

АПРЫ́КРЫЦЬ, *дзеясл.* Апрыкраць. *Апрыкрый ён мне, што й глядзець ня можна.* Парадзіна Мсцісл.

АПРЫСТА́НЬНЯ, -я, *н.* Апрастанне, аслабаненне. *Ці будзіць калі апрыстаньня ат етый работы?* Слаўнае Мсцісл.

АПРЫСТА́ЦЦА, *дзеясл.* Апрастацца, спаражніцца. *Калі ўсі мяхі апрыстаюцца — сыбяры іх і зынясі ў інбар.* Пірагова Мсцісл.

АПРЫСТА́ЦЬ, *дзеясл.* Апрастаць, спаражніць, аслабаніць. *Скарей ба Мар'ю выдыць замуж, рукі ат забот апрыстаць.*

Слаўнае Мсцісл. *Апрыстай мне етый мяшок, высып куды-небудзь гарох, мне хутка ён нада.* Рудня Клім.

АПРЭ́ГЧЫСЯ, *дзеясл.* Апрэгчыся, абапіцца. *Апрэгчыся можна, выпіўшы столькі.* Стары Стан Міласл. *Апрогся, піўшы ваду.* Горкі Краснап.

АПРЭ́ЖЦА, *дзеясл.* Апрэгчыся. *Каб жа ён піў так, як людзі, ато не, яму трэба апрэжца да біспаміцтва.* Лядзішча Міласл.

АПРЯ́НУТЫЙ, *прым.* Апрануты. *Прііжджаў нейкі з акругі, апрянутый у хутру — мабыць нычальнік нейкі.* Лядзішча Міласл. *Табе цёпла, ты апрянутый добра.* Лінь Крыч.

АПРЯНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Апрануцца. *Апрянуліся мы ў цёплыя кажухі і пашлі памалу.* Пірагова Мсцісл. *Табе трэба апрянуцца, ато халодна будзя.* Канічы Касцюк.

АПРЯНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Апрануць, надзець. *Ты ж ба апрянула што на плечы, ато халодна.* Пірагова Мсцісл. *Трэ было кажух апрянуць, дык ня зьмерз ба.* Паланіца Крыч.

АПРЯ́ТЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Апратвацца, апранацца. *Цяплей апрятывыцца нада, ня лета цяпер.* Пячоры Касцюк. *Нада апрятывыцца ўзімку цяплей.* Пірагова Мсцісл.

АПРЯ́ТЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Апратваць, апранаць. *Апрятывай яе цяплей, ато ноды прастудзіцца!* Пірагова Мсцісл.

АПТЭ́КА, -і, *ж.* Аптэка. *Зьбегай ты, Міхась, у аптэку і купі іоду.* Клімавічы. *Сыбачы рамон старухі зьбіраюць і прадаюць у аптэку.* Пірагова Мсцісл.

АПУСТО́ШЫВАЦЦА, *дзеясл.* Апустошвацца, пусцець. *Апустошываюцца засекі ў інбары к вясьне.* Пірагова Мсцісл. *Апустошываецца пуня, а ды вясны яшчэ далёка.* Лядзішча Міласл.

АПУСТО́ШЫНЫЙ, *прым.* Спустошаны. *У Зялёный Дуброве увесь лес апустошынэй.* Пірагова Мсцісл.

АПУСТО́ШЫЦЬ, *дзеясл.* Спустошыць. *У нас ужо ўсё пыжалі, апустошылі, няма нічога на полі.* Пірагова Мсцісл.

АПУСЬЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Апусціцца. *Апусціўся наш Ігнат і ны сябе ні падобін стаў.* Міцькаўшчына Мсцісл.

АПУ́ХА, -і, *ж.* Апуха. *Апуха ны кажуху ні аднакывыя.* Краснаполле.

АПУ́ХЛЫЙ, *прым.* Апухлы. *Апухлыя рука была перівязына кыла локцю.* Пірагова Мсцісл. *У цябе ўвесь твар апухлы, што ета с табою?* Стары Стан Міласл.

АПУ́ХНУЦЬ, *дзеясл.* Апухнуць. *Ныга ў мяне нешта апухнула, ноды ці ня рожа ў мяне?* Дудараўка Міласл.

АПУ́ШЧАНЫЙ, *прым.* Апушчаны. *Ходзіць ён цяпер, як у ваду апушчаный.* Пірагова Мсцісл.

АПУШЧЭ́ЛЬНІК, -а, *м.* Нядбайны гаспадар. *Апушчэльнік Ігнат — увесь будынак апусьціў, што развальваіцца.* Міцькаўшчына Мсцісл.

АПУШЧЭ́НЕЦ, -нца, *м.* Нядбайла. *Апушчэнец ты, да чаго ты двор давёў — усі пуні пызывалілісь.* Пірагова Мсцісл.

АПУШЧЭ́НСТВА, -а, *н.* 1. Распуста [нядбайнасць]. *Ну і апушчэнства стала: прівядзець коні ў луг і сам лажыцца спаць.* Канічы Касцюк. 2. Запусцеласць. *Агароды ні гароджаны, яравішча ні пахына — апушчэнства поўнае.* Шумячы. 3. Гультайства. *Нейкыя апушчэнства найшло ны мяне: нічога рабіць ня хочыцца.* Парадзіна Мсцісл.

АПУШЧЭ́НЬНІК, -а, *м.* Нядбайла. *Во апушчэньнік, дакуль ета ты будзеш сядзець? Людзі ўжо сколькі чаго пынадзелалі, а ён сабе сядзіць і бяды яму мала.* Бяседавічы Хоцім. *Апушчэньнік ты, што ж ты зы скатом ні глядзіш?* Пірагова Мсцісл.

АПУ́ШЫК, -а, *м.* Апуха. *Кыжушок чорный, а апушык серый.* Горкі Краснап.

АПЦУГІ́, -оў, *мн. л.* Абцугі. *Яму апцугі нада, ён так етыя гвозьдзя зь сьцяны ня выцініць.* Дудараўка Міласл. *Прінясі мне апцугі, павырваць гвозьдзя нада.* Новае Сяло Мсцісл. *Вазьмі апцугі ды павырві етыя гвозьдзя.* Шумячы.

АПЧЭ́СЬЦЬВІННЫЙ, *прым.* Грамадскі. *Ета бугай апчэсьцьвінный, уся дзярэўня яго садзержыць.* Лядзішча Міласл. *Нашы дзіравенцы пастроілі апчэсьцьвінную лазьню.* Лінь Крыч.

АПША́СНУЦЦА, *дзеясл.* Абшаснуцца, аступіцца, ступіць не туды, міма. *Ішла пы кладыцы, апшаснулыся і пыляцела ў ваду.* Старае Сяло Мсцісл. *Ён ішоў пы кладычках, апшаснуўся ды ў ваду — бурдык!* Кокатава Мсцісл.

АПШЫ́ВАНКА, -і, *ж.* Лодка з шалёвак. *Апшыванка наша цякець, нада зыкыныпаціць ды прысмаліць хырашэнька.* Паланіца Крыч. *Сёньня апшыванку сваю спусьціў ны ряку.* Людагошч Мсцісл.

АПЫВІ́ДАНЬНЯ, -я, *н.* Апавяданне. *Учора ўвечары ён рыскызаў нам страшныя апывіданьня.* Старае Сяло Мсцісл.

АПЫГА́НІНЫЙ, *прым.* Апаганены, забруджаны. *Ета вядро апыганіныя — памыі ў ім былі.* Лядзішча Міласл.

АПЫГА́НІЦЬ, *дзеясл.* Апаганіць, запаскудзіць. *Ні апыгань вядро, бярэсься брудныімі рукамі.* Брылёўка Краснап.

АПЫЗНА́ЦЦА, *дзеясл.* Абазнацца, не пазнаць. *Глядзі ляпей, ато можаш апызнацца.* Канічы Касцюк. *Апызнаўся я, думаў, што ета Міхась, а ета зусім нізнаёмы чылавек.* Стары Стан Міласл.

АПЫМЯНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Апамятавацца, апомніцца. *Апымяніся, хлопыц, што ты робіш?* Брылёўка Краснап.

АПЫНТА́НЫЙ, *прым.* Апантаны, адурэлы, звар'яцелы. *Што ты бегаіш, як апынтаный, ня ведаіш, што тут нада ціха хадзіць?* Пірагова Мсцісл. *Апынтаныя ты! Пралупі вочы, што ты тут нырабіла.* Лядзішча Міласл. *Ходзіць, як які апынтаный.* Кокатава Мсцісл.

АПЫНТА́ЦЬ, *дзеясл.* Абступіць, напасці [апанаваць]. *Апынталі мяне сыбакі і ну резыць, ледзь абыраніўся.* Хвёдараўка Краснап. *Чылавека сыбакі апынталі.* Старае Сяло Мсцісл.

АПЫНУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Апанаваць, абступіць. *Як апынувалі мяне сыбакі, дык чуць ня зьелі.* Кокатава Мсцісл.

АПЫНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Апынуцца, стаць. *Ноччу зьбійсь з дарогі, але ішоў і апынуўсь німаведыма дзе.* Старае Сяло Мсцісл. *Вуныцька ён айдзе ўжо апынуўся.* Кокатава Мсцісл. *А йдзе ета я апынуўся?* Лядзішча Міласл.

АПЫСА́ЦЦА, *дзеясл.* Апасацца, быць асцярожным. *Тут табе трэба апысацца, ато ў ямку ўляціш.* Канічы Касцюк.

АПЫСЬЛЯ́, *прысл.* Пасля. *Апысьля будзім гуляць, зразу пачытаць нада.* Канічы Касцюк.

АПЫТА́НЫЙ, *прым.* Апытаны. *Ня руш гэтыга, ён ужо апытаны, болей ён нічога ні скажыць.* Пірагова Мсцісл.

АПЫТА́НЬНЯ, -я, *н.* Допыт. *У судзе пычалось апытаньня сьвідзеціляў.* Пірагова Мсцісл.

АПЫТА́ЦЬ, *дзеясл.* Спытаць, папытаць [абапытаць]. *Апытай у людзей, што ехылі зы табой, можа яны бачылі.* Цёмны Лес Раснян.

АПЫ́ТЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Быць на допыце. *Ці апытываўся ты ўжо на судзе? Не йшчэ.* Юшкі Мсцісл.

АПЫ́ТЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Дапытваць, весці допыт [і прапытваць]. *Ну, пачынай апытываць, дзе яны што бачылі.* Пірагова Мсцісл.

АПЫЯ́СКА, -і, *ж.* Пояс. *Німа 'пыяскі, пыдпірізацца нечым.* Горкі Краснап.

АРА́ВА, -ы, *ж.* Плойма, чарада, натоўп. *Нешта ў цябе ўсё ідзець араўю — агулым бызар.* Дубеец Касцюк.

АРАДЗЁМШЫ, *дзеепрысл.* Нарадзіўшы. *А ці чулі вы, дзевычкі, ету навіну? || А што наша ды вайтоўнычка сына радзіла? || Арадзёмшы, ды дзіцятычка пынісла тапіць.* З нар. песні, М. Г. 139.

АРАДЗІ́НІЦЦА, *дзеясл.* Радзіць [разрадзіцца]. *Мыя жонка арадзінілась: сына прывіла.* Бель Мсцісл.

АРА́П, -а, *м.* Чорнаскуры чалавек. *Вышаў с тае смылакурьні чорный, як арап, толькі вочы блішчаць ды зубы, як зысьмяецца.* Высокі Бор Краснап.

АРА́ЦЬ, *дзеясл.* Араць. *Сёньня мы паедзім араць на пывалочча.* Тур'я Чэрык. *Рыхтуй саху, араць скора будзем.* Дудараўка Міласл. *Як ты думаіш араць: у склад, тут узорана ў склад.* Хвёдараўка Краснап. *Ары ў склад, загоны круглей будуць.* Хвёдараўка Краснап. *Ты арэш у роскідзь, а ці ў бугонь? У бугонь, бо ў мінулым годзе тут узорана ў склад.* Тур'я Чэрык.

АРБУ́З, -а, *м.* Гарбуз. *Арбузы ліжаць ны стряхе, дысьпіваць пыклалі іх.* Кісялёва Буда Краснап.

АРГА́Н, -а, *м.* Арган, духавы музычны інструмент. *Арган у касьцёлі йграець, дык во прыгожа слухаць.* Жэрацiно Мсцісл. *У касьцёлі іграюць ны 'ргані.* Мсціслаў.

АРЕЛЕ́ЗІЦЬ, *дзеясл.* Абразіць. *Ганка мяне так арелезіла, што мне нейдзе было дзівацца.* Глінь Калінішчына.

АРЕ́ЛІ, -іў, *мн л.* Арэлі, гушкалка. *У саду вісяць арелі.* Бялішчына Мсцісл. *Павесіў дзядзька арелі, хадзі пойдзем гуташыцца.* Пірагова Мсцісл. *Мы на сорыкі зьдзелылі арелі і доўга гутылісь.* Арцёмаўка Міласл. *Сяньні, як гутылісь, дык Галя ўпала зareліў.* Шарэйкі Касцюк.

АРЕ́НДА, -ы, *ж.* Арэнда. *Ладзімір сінакос здаець у 'ренду.* Палуж Краснап.

АРЕ́Х, -а, *м.* Арэх. *Пашлі хлопцы зь дзеўкымі ў лес шчыпаць арехі.* Сохана Мсцісл. *Зубоў німа, і ареха ні раскушу.* Рэчыца Чэрык. *Раскусі ты мне арех, ато ў мяне зубоў німа.* Пірагова Мсцісл. *Арех крепкій — ні раскусіць.* Крывы Лес Шумяц. *Я цябе сьвінцовым арехым пычастую. Я сёньня знайшоў сьвінцовы арех.* Бялішчына Мсцісл.

АРЕ́ХЫЎКА, -і, *ж. заал.* Сойка, арэхаўка. *Лядзі, арехыўка пыляцела.* Янаўка Мсцісл.

АРЕ́Ц, -рца, *м.* Араты. *Дренный сь цябе арец — угрехыў быгата 'стыўляіш.* Палуж Краснап.

АРЕ́ШЫК, -шка, *м.* Памянш. ад арех. *Адзін арешык даў і той пустый.* Лядзішча Міласл. *Між тых паненык Лёксычка, || Шаўковым платком сіяіць || А ў арешыкі іграіць.* З нар. песні, М. Г. 23.

АРЖА́, -ы, *ж.* Ржа. *Аржа есьць зялеза, калі яно ляжыць у сырасьці.* Бяседавічы Хоцім. *Столькі аржы сёліта ны балоці, што крый бог — усё балота рудоя.* Пірагова Мсцісл.

АРЖАВЕ́Ц, -аўца, *м.* Ржа. *Серп пыд стряхою пірязімуваў, дык аржавец зубы ўсі зьеў.* Белы Мох Мсцісл.

АРЖАВЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Ржавець. *Хызяін! Плуг будзіць ліжаць пыд дажджом, аржавець, а ён ходзіць кыла яго і ні падкінець пыд стряху.* Сапрынавічы Мсцісл.

АРЖА́ВІЦЬ, *дзеясл.* Ржавець. *Аржавія тапор, валяўшысь пыд лаўкый.* Пірагова Мсцісл.

АРЖА́ВЫЙ, *прым.* Ржавы. *Дужа твой плуг аржавый, ён жа пыхаць ня возьмець!* Жарацiно Мсцісл.

АРЖА́НІШЧА, -а, *н.* Жытняе іржышча, поле, дзе было жыта. *Там цяпер аржанішча, а на лета будзем ярь сеяць.* Асмолавічы Мсцісл.

АРЖАНЫ́Й, *прым.* Ржаны, жытні. *Мы цяпер ядзім чыстый аржанэй хлеб, ато ўсё мішалі зь ячменім.* Пірагова Мсцісл. *Рэзь з аржанэй саломы каровы ні так ядуць, як з аўсяный.* Канічы Касцюк.

АРЖЭ́ЎНІК, -а, *м.* Ржышча пасля жыта [ржэўнік]. *Ні пайду я босый — аржэўнік вельмі коліцца.* Іванаўка Міласл.

АРІ́НА, -ы, *ж.* Уласнае імя Арына. *Ны загувальні сядзела Аріна і голысна плакыла.* Лешчынка Мсцісл. *А йдзі, коця, на вулку, || Прінясі Арінцы хлеба булку.* З нар. песні, М. Г. 146.

А́РКА, -і, *ж.* Арка. *У канцы дзяреўні к Первыму маю зьдзелылі арку.* Мазалава Мсцісл. *Пабудывалі арку к дэманстрацыі.* Пірагова Мсцісл.

А́РКУШ, -а, *м.* Аркуш, мера паперы. *Дай мне аркуш паперы, нада пісьмо напісаць. Напісаў бы, дык паперы ані аркуша німа.* Старае Сяло Мсцісл.

А́РМІЯ, -і, *ж.* Войска. *Цэльный год дыжыдалі мы сына з арміі.* Пірагова

Мсцісл. *Мы зь ім разым у арміі служылі.* Стары Стан Мілаcл.

АРМЯ́К, -а, *м.* Армяк, суконная верхняя доўгая вопратка. *Трэба ны нашлег сёньні надзець армяк, ато ёдка.* Усполле Раснян. *Надзень армяк, ато будзіць халодна ў адным пінжаку.* Вінаградаў Міласл.

АРО́Л, арла́, *м.* Арол. *У яго конь, як арол.* Паланіца Крыч. *Купіў кыня ік арла.* Малашкавічы Клім. *Вот табе, вутычка, вот табе серыя, ‖ Зы тваe пірялёты! ‖ Як ты літала і пірібірала ‖ Арламі, сыкыламі, ‖ Выбрыла сабе сіляземічку, ‖ што літаіць нізенічка.* З нар. песні, М. Г. 25.

АРТА́ЧЫЦЦА, *дзеясл.* Наравіцца [паказваць нораў]. *Як пычаў мой конь артачыцца, я яго і біў, і чаго ні дзелыў, а німа рады!* Пірагова Мсцісл.

АРТЫКУ́Л, -а, *м.* 1. Артыкул, параграф. *Етый артыкул ды каго хочыш можна дыпасуваць, і нявінныга можна абвінуваціць.* Верамеева Чэрык. 2. Выверт, фокус. *Сьціпан як пычаў артыкулы выкідываць — чуць ні памерлі са сьмеху.* Мазалава Мсцісл.

АРУ́ДУВЫНЬНЯ, -я, *н.* Мудрагельства. *Ніякія тут арудувыньня ні паможыць, тут нада ўсё спычатку дзелаць.* Пірагова Мсцісл.

АРУ́ДУВЫЦЬ, *дзеясл.* Выдумляць, рабіць пустое. *Што ты тут арудувыіш, дзелыць табе нечыга?* Пірагова Мсцісл. *Як пычаў тут Ляксей арудывыць, дык усі памёрлі са сьмеху.* Каробчына Мсцісл.

АРХІЯРЕ́Й, -я, *м.* Архірэй. *Раней архіярей езьдзіў у кареці чацьвёркай, а січас пешкі ходзіць.* Куравічы Мсцісл.

АРЦІ́СТ, -а, *м.* Артыст. *Гэта арціст пашоў — у ціятры прістыўляіць.* Старае Сяло Мсцісл. *Арцісты пріехылі, прыстыўляць будуць.* Палуж Краснап.

АРШЫ́Н, -а, *м.* Аршын, мерка даўжыні, локаць. *Аршын чатыры рублі каштуе, а колькі ета будзе метар?* Лядзішча Міласл. *Ужо двынаццыць аршын углыбкі выкыпылі калодзісь, а вады ўсё німа.* Добрае Мсцісл. *Во хлапец — аршын с шапкый ад зямлі.* Бяседавічы Хоцім.

АРЫШТА́НТ, -а, *м.* 1. Арыштант, той хто сядзіць у астрозе. *Арыштанты з турмы паўцікалі.* Крычаў. *Ноччы два арыштанты ўцяклі сь цюрьмы.* Маластоўка Краснап. 2. Грубіян, задзіра. *Што ты зьдзелыіш зь етым арыштантам, ён чылавека ставіць ні ўва што.* Хутар Міхайлаў Раснян.

АРЫШТО́ВАНЫЙ, *прым.* Арыштаваны. *Табе вядома, што твой Іван арыштован?* Касцюковічы.

АРЭ́ХВА, -ы, *ж.* Рэхва. *Трэба ўзьбіць арэхву ны каток.* Людагошч Мсцісл.

АРЯБІ́НА, -ы, *ж.* Верабіна [рабіна]. *Марожыныя арябіна укусныя.* Высокі Бор Краснап.

АСАБЛІ́ВА, *прысл.* Асабліва. *Асабліва ўкажы яму ны яго нідахопы.* Пірагова Мсцісл. *Асабліва ты ні пярэч яму, калі ён будзе ныстаівыць.* Ліпаўка Хоцім.

АСАБЛІ́ВАСЬЦЬ, -і, *ж.* Асаблівасць. *На дубе ўвосень дойга лісьця ні 'пыдаіць, гэта—яго асаблівасьць.* Стары Стан Міласл.

АСАБЛІ́ВЫЙ, *прым.* Асобны. *Асаблівый паклон майму татку.* Пірагова Мсцісл.

АСАБНІ́К, -а, *м.* Асабняк, хутар. *Купіў сабе асабнік, пысяліўся і жыве сабе.* Дудараўка Міласл.

АСА́ДА, -ы, *ж.* Аправа [праёмаў для вакон і дзвярэй]. *Я ныняў плотнікаў зрабіць асаду ў хаце на вокны.* Юшкі Мсцісл.

АСА́ДЖВЫЦЬ, *дзеясл.* Прыладжваць [апраўляць і устаўляць]. *Пойдзем-ка асаджвыць дзьверы, бо зіма находзіць, зараз хылады будуць.* Пірагова Мсцісл.

АСАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл. Прыладзіць,* уставіць [апрaвіць асадаю]. *Ён узяўся вокны й дзьверы асадзіць за дзесяць рублёў.* Асмолавічы Міласл.

АСА́ДКА, -і, *ж.* Абсадка. *Якая ў цябе асадка ны грядых — бручка ці рэдзька?* Пірагова Мсцісл.

АСАРО́МІЦЬ, *дзеясл.* Асарамаціць. *Асароміў ты яе на ўвесь сьвет.* Пірагова Мсцісл. *Ты ж можыш асароміць дзяўчыну, так скызаўшы.* Лінь Крыч.

АСАЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Дасачыць, асачыць, знайсці. *У нас ваўкі ў лесі, нада асачыць, ідзе яны жывуць, і аблаву зьдзелыць.* Арцёмаўка Міласл.

АСВА́, -ы, *ж.* Аса. *Ён жа ні рызьбярэ — што асва, што пчыла.* Старае Сяло Мсцісл. *Асва мяне зы нагу ўкусіла — лядзі, як распухла.* Паланіца Крыч.

АСВАБО́ДЖЫНЫЙ, *прым.* Асвабоджаны, вызвалены. *Асвабоджынэй з падпечча певень ад радысьці пычаў пець.* Пірагова Мсцісл.

АСВО́ЙВЫЦЦА, *дзеясл.* Асвойвацца, знаёміцца, прывыкаць. *Хутка пычаў асвойвыцца на новым месьці.* Старае Сяло Мсцісл. *Пычаў зь дзелым асвойвыцца.* Б. Хутары Краснап.

АСВЫБАДЖЭ́НЬНЯ, -я, *н.* Асвабаджэнне, вызваленне. *Асвабаджэньня зьнявоління з-пыд арышту ізьдзелылі пысьля рывалюцый.* Барысавічы Клім.

АСВЫБАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Асвабадзіць, вызваліць. *Асвыбадзі ты яго, ніхай ідзе двору.* Гаўрыленка Бялынкав.

АСЕ́ВЫК, -еўка, *м.* Асевак, высеўкі [тое, што не прасейваецца, вотруб'е]. *Вазьмі етый асевык і зынясі ў абору.* Куркаўшчына Мсцісл.

АСЕ́ВЫЧНЫЙ, *прым.* Высевачны. *Асевычную муку сыпяць сьвіньням.* Пірагова Мсцісл.

АСЕ́ЛІНА, -ы, *ж.* Сядзіба, двор, хата. *Там, сярод поля, нейкыя аселіна відна, туды і паедзім!* Пірагова Мсцісл.

АСЕ́ЛІЦА, -ы, *ж.* Аселіца, лужок каля сядзібы. *Выгынь сьвіньней ны аселіцу, ніхай трохy паходзюць.* Слаўнае Мсцісл.

АСЕ́ЛЫЙ, *прым.* Прыйшлы. *Яны аселыя, ні тутэйшыя — прішлі сюды з Ціхіля.* Пірагова Мсцісл.

АСЕ́ЛЫК, -лка, *м.* Асялок, брусок. *Вось твой асёлык дык добра бярэ касу.* Усполле Раснян.

АСЕ́ЛЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Аселасць. *Гэта аселысьць была з тае прычыны, што ім у другіх месцах ні дызвылялі жыць, дык яны сюды пынаехылі.* Пірагова Мсцісл.

АСЕ́НЬНІЙ, *прым.* Асенні. *Дзіўна прыгожы ясныя, зорныя ночы асеньнія.* Сохана Мсцісл.

АСЁТКА, -і, ж. Месца над печчу ў асеці, дзе сушацца снапы; партыя снапоў, загружаная на сушку. *Сяньні ў нас невялікая асётка — сотні трі насоджына — скора змалоцім.* Пірагова Мсцісл.

АСЁЎКІ, -евык, мн. л. Высеўкі, вотруб'е. *Дужа дренна пумалолі муку — як сеіш, дык зыстаецца пасьці пылавіна асевык.* Слаўнае Мсцісл. *Дужа грубыя асеўкі зь етай мукі, знаць, жыта сырое было.* Пірагова Мсцісл.

АСЁЦЬ, -і, м. Сушыльня ў гумне [з падвальнай печчу]. *Аўса нысадзілі цэлую асець.* Машавая Бялынкав. *Пайдзём нысадзім асець.* Прыбярэж Раснян. *Як толькі зьвезьлі жыта ны гумно, зараз жа нысадзілі асець снапоў і пычалі сушыць.* Старае Сяло Мсцісл. *Малыя пыдлазьзя ў тваей асеці.* Хвёдараўка Краснап. *Поўную асець снапоў нысадзілі.* Тэкліна Шумяц.

АСЕ́ЧЫНЫЙ, прым. 1. Абсечаны, наўкола высечаны. *Лес цяпер стаіць увесь асечыный, як пубывала там наша дзярейня.* Пірагова Мсцісл. 2. Высцебаны. *Сароміў, сароміў мяне бацька, і пайшоў я ад яго, як асечыный.* Каробчына Мсцісл.

АСІДА́ЦЦА, дзеясл. Асядацца, асядаць. *У маей хаце вуглы пычылі асідацца.* Пірагова Мсцісл. *Тынкуваць яшчэ нільзя, сьцены асідаюцца.* Гусарка Клім.

АСІДА́ЦЬ, дзеясл. Асядаць. *У хаце куты пычалі асідаць.* Барысавічы Клім.

АСІ́КАЦЬ, дзеясл. Абсякаць. *Нада асікаць суччa ны яблынях.* Пірагова Мсцісл.

АСІ́ЛАК, -лка, м. 1. Асілак, чалавек вялікай сілы. *Быў у нашый вёсцы асілак, дык ён усіх пабoрыў.* Старае Сяло Мсцісл. 2. Сіло, пастка. *Сёньня ў мой асілак тхор пупаўся, цяпер ужо ня будзець пісклят душыць.* Пірагова Мсцісл.

АСІ́ЛІЦЬ, дзеясл. Асіліць, перамагчы. *Асіліла мяне хвароба, памiраю я ўжо.* Пірагова Мсцісл.

АСІ́НА, -ы, ж. бат. Асіна. *Мылыдая асіна здалёку падобна ды бярозы, а старую ўжо адразу распызнаіш.* Пірагова Мсцісл. *Асіна балота красіла.* Лінь Чэрык.

АСІ́НІНА, -ы, ж. Асінавае [асобнае] дрэва. *Зрэжце-ка вы, хлопцы, тую асініну, што ны лагу стаіць, ато іна толькі засьціць.* Пірагова Мсцісл.

АСІ́НКА, -і, ж. Памянш. ад асіна. *Вырысла ў мяне ў садзе мыладзенькыя асінка.* Пірагова Мсцісл.

АСІ́НЬНІК, -а, м. Асіннік, параснік асіны. *Пайдзем у асіньнік, пушукаім пыдасінавікаў.* Вародзькава Крыч. *Пыдасінавікі і абабкі растуць у бярэзьніку і мыладым асіньніку.* Асмолавічы Мсцісл.

АСІРАЦІ́ЦЬ, дзеясл. Асіраціць. *Што ж ты забіў квакуху, ты ж пісклят асіраціў!* Пірагова Мсцісл.

АСІРО́ЧАНЫЙ, прым. Асірочаны. *Маленькій асірочаный хлопчык зыстаўсь адзін, як матка памёрла.* Пірагова Мсцісл.

АСКАБЁЛ, -а, м. 1. Чурбак, вялікі аскепак. *Етыга аскабёла цельный воз.* Тур'я Чэрык. 2. Здаровы, дужы чалавек. *Ты здаровый аскабёл.* Хвёдараўка Краснап.

АСКА́РЖЫНЫЙ, прым. Абскарджаны. *Аскаржыныя справы ізноў пірігл ідаюцца.* Пірагова Мсцісл.

АСКА́РДЗІЦЬ, дзеясл. Абскардзіць. *Етыю пыстанову можна йшчэ аскардзіць у вышэйшы суд.* Рэчыца Чэрык. *Аскардзіць можаш, калі ніздаволены.* Пячоры Касцюк.

АСКЁПАК, -пка, м. Трэска, шчэпка. *Узяў із злосьці паськіпаў, паськіпаў тый стул, толькі аскёпкі зысталіся!* Юшкі Мсцісл.

АСКЁПЫЧЫК, -чка, м. Памянш. ад аскёпак. *Маленькі аскёпычык зыляцеў у вока, з таго часу і баліць яно ў мяне.* Юшкі Мсцісл.

АСКІРЗА́ЦЦА, дзеясл. Агрызацца, гаварыць адзін аднаму прыкрасці. *Зоська з Ганнай спычатку гыманілі паціху, а потым пычалі аскірзацца.* Старае Сяло Мсцісл.

АСКО́ЛА, -ы, ж. Вісус, чалавек, што ўсюды паспее. *Ну й аскола етый хлопіц, усюдых пасьпеіць, з усімі паб'ецца, каждыга зачэпіць; а вочы так і бегыюць, так і ішчуць, што такоя нытваріць.* Арцёмаўка Міласл.

АСКО́ЛАК [аскрётак], -лка, м. Бярозавае палена на лучыну. *З роўный бярёзы асколкі шчыпаюцца хырашо.* Слаўнае Мсцісл.

АСКО́МА, -ы, ж. Аскома. *Во кіслае яблыка, адразу аскома зьявілыся.* Пірагова Мсцісл. *Аскома ны зубах — есьці нічога ні магу.* Гаўрыленка Бялынкав.

АСКО́МІЦЦА, дзеясл. Надакучаць, набіваць аскому. *Аскоміцца мне ета работа, нада шукаць другую.* Юшкі Мсцісл.

АСКО́МКА, -і, ж. Памянш. ад аскома. *Ныгнаў я сабе аскомку ў зубы.* Асмолавічы Мсцісл. *Кіслыя яблыка, аж аскомка ны зубах.* Краснаполле.

АСКО́МЛІВЫЙ, прым. Кіслы [што аскому наганяе]. *Аскомлівыя яблыка, аж зубы зыбалелі.* Хвёдараўка Краснап.

АСКО́МНЫЙ, прым. Ласы, смачны. *Гэта, братка, аскомный кусочык, ды ні нам с табой яго есьці!* Пірагова Мсцісл.

АСКРА́БЛІНЫЙ, прым. Абскрабаны, абдрапаны, абдзёрты. *Зьявіўся двору — стрыхыта глядзець: ліцо ўсе аскрабліныя, аж кроў плувець.* Пірагова Мсцісл.

АСКРА́БНУТЫЙ, прым. Абскрабаны, абдрапаны, абдзёрты. *Ні чыпай кыта, ато будзеш аскрабнутый хадзіць.* Юшкі Мсцісл. *Аскрабнутый кагоцьцямі кыта.* Пірагова Мсцісл.

АСКРА́БЫВЫЦЬ, дзеясл. Абскрабаць, скабліць, ачышчаць ад кары [абдзіраць]. *Бяры-ка ты скоблю ды аскрабывый гэтый асінавый паплён.* Пірагова Мсцісл.

АСКРА́БЫЦЦА, дзеясл. Абскрабацца, абадраць сабе скуру на целе. *Як лез на дрэва, аскрабыўся аб сучча.* Пірагова Мсцісл.

АСКРА́БЫЦЬ, дзеясл. Абскрабаць, абдзерці [і абдрапаць]. *Кот абскрабыў дзіцёнка.* Асмолавічы Мсцісл. *Ні чыпай кыта, ато ён цябе аскрабыіць.* Стары Стан Міласл.

АСКРЁБЫК, -бка, м. Астаткі, падонне [і апошні блін, булка хлеба]. *У гырлачу ўжо німа нічога, адны аскрёбкі зысталіся на дзенцы.* Пірагова Мсцісл.

АСКЫРЖА́ЦЬ, дзеясл. Абскарджваць. *Ці будзіш ты ў суд аскыржаць, ён жа цябе было забіў!* Пірагова Мсцісл.

АСКЫРЖАЦЦА, *дзеясл.* Абскарджвацца, скардзіцца. *Пайду ў суд і буду аскыржацца на Мікіту.* Старае Сяло Мсцісл.

АСЛАБА, *прысл.* Слаба. *Вады мала — аслаба стала малоць.* Каробчына Мсцісл. *Во-во пампрэць, саўсім аслаба стала.* Юшкі Мсцісл.

АСЛАБЫЙ, *прым.* Слабы, кволы. *Аслабый я ўжо стаў, паміраць зьбіраюсь.* Тэкліна Шумяц.

АСЛАБЕНІЦЦА, *дзеясл.* Аслабаніцца, вызваліцца. *Аслабеніўсь я ўжо, усё зрабілі, што нада было.* Юшкі Мсцісл.

АСЛАБЕНІЦЬ, *дзеясл.* Аслабаніць, вызваліць. *Аслабеніў ён мяне ад цяжкай працы.* Юшкі Мсцісл. *Пыпрасі яго, дык ён цябе аслабеніць.* Лядзішча Міласл.

АСЛАБКА, -і, *ж.* Палёгка, ільгота. *Я ім дазволіў хадзіць только раз у нядзелю, аслабку ім зрабіў.* Юшкі Мсцісл.

АСЛАНІЦЬ, *дзеясл.* Засланіць, зачыніць заслонкаю. *Аслонь-ка ты печку, каб дух ня выходзіў.* Юшкі Мсцісл.

АСЛУХЫЦЦА, *дзеясл.* Паслухаць [і не паслухацца]. *Ты перве аслухыйся, што кажуць, а тады сам кажы.* Пірагова Мсцісл.

АСЛЫБАНІЦЬ, *дзеясл.* Аслабаніць, вызваліць. *Нады яго аслыбаніць ат етый павіннасьці.* Слаўнае Мсцісл. *Грішку ўжо аслыбанілі сь цюрьмы: атсідзеў трі месіцы і пусьцілі.* Горкі Краснап.

АСЛЫБЫНЯЦЬ, *дзеясл.* Аслабаняць, вызваляць. *Мяне цяпер аслыбыняць нада ат такіх цяжкіх работ.* Пірагова Мсцісл.

АСМАШНА, *прысл.* Смачна. *Асмашна есьць, аж мне зыхацелась.* Паланіца Крыч.

АСМАШНЫ, *прым.* Смачны. *Асмашны жабе арех, ды зубоў ні маіць.* Лінь Крыч. *Яблыкі гетыя асмашныя, як мёд.* Юшкі Мсцісл.

АСМЫКУВАНЫЙ, *прым.* Асмакаваны, упадабаны. *Кулеш у нашый мясцовысьці— асмыкуваныя іда.* Пірагова Мсцісл.

АСМЫКУВАЦЬ, *дзеясл.* Асмакаваць, знайсці што смачнае. *Гэту пытраву мае дзеці асмыкувалі, любяць яе.* Асмолавічы Мсцісл.

АСНОВА, -ы, *ж.* 1. Аснова, асноўныя ніткі ў кроснах. *Аснова ў маіх кроснах пыртная, а ўток суконный.* Пірагова Мсцісл. 2. Аснова. *Паплёт — аснова крышы.* Затонь Дрыбін.

АСНЫВАНЫЙ, *прым.* Аснаваны. *Кросны асныване, цяпер навіць ны ставы нада.* Лінь Крыч.

АСНЫВАЦЬ, *дзеясл.* Аснаваць. *Нада було б красён губык са тры асныиваць, ды ўсё з работый ніяк ні ўправіцца.* Ельня Краснап.

АСОБА, -ы, *ж.* Асоба. *Прыехыла к нам нейкыя асоба.* Пірагова Мсцісл.

АСОБІННЫЙ, *прым.* Асобны [і асабліва]. *Ён жывець у асобінным пакойчыку.* Палуж Краснап. *Ён завёў мяне ў асобінную комныту.* Асавец Крыч.

АСОБІСТА, *прысл.* Асобна, асабіста. *Прыкажыш цыбе яшчэ асобіста прасіць?* Пірагова Мсцісл.

АСОБІЦЦА, *дзеясл.* Выдзяляцца, вылучацца [і адасабляцца]. *Нешта ж ты ўсё асобішся, гінарысься, ці што?* Пірагова Мсцісл.

АСОБНА, *прысл.* Асобна. *Бульбу й буракі разым ссып, а моркву асобна.* Старае Сяло Мсцісл. *Чаго ты ходзіш асобна ад усіх?* Пірагова Мсцісл.

АСОБНІНА, -ы, *ж.* Зробленае знарок асобна, лепшае чым для ўсіх. *Бытраку бульбы ўвальець, а сыну — асобніну падсуніць, ладак ці яшчэ чаго.* Пірагова Мсцісл.

АСОБНЫЙ, *прым.* 1. Асобны. *Хата адна сабе, а двор асобный, ны другом баку вуліцы.* Бяседавічы Хоцім. 2. Асаблівы, незвычайны. *Нейкій у яе асобный выгляд сёньня, не такі, як усягды.* Пірагова Мсцісл.

АСОВА, -ы, *ж.* Апоўзень, зсоўванне, абвал зямлі. *Лі берігу блізка ні стой, ато асова можа быць, дык у яму ўпадзеш.* Судзілавічы Клім.

АСОВЫВАЦЦА, *дзеясл.* Зсоўвацца, аб'язджаць. *Нешта ж твой воз пычаў асовывацца, крыва ты яго, відна, ныклаў.* Пірагова Мсцісл.

АСОТ, -у, *м. бат.* Асот, дзядоўнік. *Я ірвала ны гародзі асот сьвіньням і пыкалола рукі.* Арцёмаўка Міласл. *Асот павырас, як лес — вышэй пшаніцы, як тут будзя жаць, усі рукі паколеш.* Баханы Чэрык.

АСОЎВЫЦЦА, *дзеясл.* Абсоўвацца. *Берыг рякі пычаў асоўвыцца — выда падмыла.* Паланіца Крыч.

АСТАЛОП, -а, *м.* Боўдзіла, ёлуп [вялікі дурань]. *Во яшчэ нейкій асталоп! Яму гыварі, а ён усё сваё. Нейкій асталоп гету аб'яву ныпісаў, нічога ні зразумець!* Пірагова Мсцісл.

АСТАЛОПІНА -ы, *ж.* Асталоп. *Асталопіна ты! Што ты ырабіў?* Дудараўка Міласл. *Ета ж тыкая асталопіна, што крый бог: нічога ён ня ведыіць.* Юшкі Мсцісл.

АСТАЛЬНЫЙ, *прым.* Астатні, апошні. *З пітнаццыці яец куріца вывіла дзьвінаццыць пісклёнкуў, а трі астальныя былі буўтуны.* Арцёмаўка Міласл.

АСТАНКІ, -ыў, *мн. л.* Памінкі па нябожчыку. *Сяньні астанкі пу бацьку, нада пы гарэлку схадзіць. Астанкамі ў нашай мясцовасьці завецца адправа пы пакойніку на дзівятый дзень пысьля сьмерці з абедам для радні і хто капаў магілу.* Пірагова Мсцісл.

АСТАНЬНЯ, -я, *н.* Апошні раз [апошняе]. *Дывай ужо ны астаньне пыцалуемся!* Пірагова Мсцісл.

АСТАТНІЙ, *прым.* Апошні. *У астатній раз я бачыла яго ў мінулы чацьвер у гырыдзі.* Юшкі Мсцісл.

АСТАТЫК, -тка, *м.* Астатак, рэшта. *Табе на адзін, табе — другей, а сабе я вазьму астатык.* Юшкі Мсцісл.

АСТАЦЦА, *дзеясл.* Застацца. *Я хачу астацца на етым месьці, нікуды ні пайду.* Пірагова Мсцісл. *Астанусь я бізь цябе.* Вародзькава Мсцісл. *Я вывіду нітычку, ‖ Кымару на сьвітычку, ‖ Астануцца кончыкі, ‖ Кымару на штончыкі.* З нар. песні, М. Г. 147.

АСТОЖЖА, -а, *н.* Стожышча, месца, дзе быў стог [стажар'е]. *Як унясьлі ўвесь хлеб на гумно — адно астожжа зысталося пумятыя.* Юшкі Мсцісл.

АСТО́ЙВЫЦЦА, *дзеясл.* Адстойвацца. *Мылако астойвыцца, і зьверху сьбіраіцца сьмітана.* Пірагова Мсцісл.

АСТРАВО́КІЙ, *прым.* Вастравокі. *Астравокыя дзяўчына, так, здаецца, цябе вачыма і колець.* Пірагова Мсцісл.

АСТРА́ШКА, -і, *ж.* Пагроза, грозьба [застрашванне]. *Астрашка нады — пачуюць, як аднаго ныкызалі, другея будуць быяцца.* Арцёмаўка Міласл.

АСТРО́ЖНА, [астаро́жна], *прысл.* Асцярожна. *Астрожна ты тут хадзі, ато звалісься.* Юшкі Мсцісл.

АСТРО́ЖНІК, -а, *м.* Арыштант. *Сёньня ціріз нашу дзярэўню міліцыя пывіла астрожнікыў.* Пірагова Мсцісл. *Ні трогый астрёжніка етыга, бо ён цябе скалечыць.* Горкі Краснап.

АСТРЕ́ІЦ, -ейца, *м.* Аўстрыяк [аўстрыец]. *Астреіц тут быў у пліну з Астреі, дык Аўдотка зь ім пышла.* Горкі Краснап.

АСТРО́ЖНЫЙ [астарожны], *прым.* Асцярожны. *К яму нады ціха пыдхадзіць — ён дужа астрожный.* Юшкі Мсцісл.

АСТРО́ЖНЫСЬЦЬ [астарожнасць], -і, *ж.* Асцярожнасць. *Астрожнысьць ніколі ні пашкодзіць — спычатку пыспрабуй, а тады ўжо дзелай.* Юшкі Мсцісл.

АСТРЫГА́ЦЬ, *дзеясл.* Астрыгаць. *Астрыгаць валосься ножнямі.* Пірагова Мсцісл.

АСТРЫНЯ́, -і, *ж.* Вастрыня. *Вось дзе астрыня піла мыя новыя, што купіў сяньні!* Пірагова Мсцісл.

АСТУ́ДЖЫНЫЙ, *прым.* Астуджаны, ахалоджаны, астылы. *Бяры, ні бойся — падкова астуджыныя.* Краснаполле.

АСТЫВА́ЦЦА, *дзеясл.* Аставацца [заставацца]. *Астывайцісь здаровы, кажуць пры разьвітаньні!* Машавая Бялынкав.

АСТЫГА́ЦЬ, *дзеясл.* Астываць, рабіцца халодным. *Прыйшлі, а ён ужо і астыгаць пычаў.* Пірагова Мсцісл.

АСТЫ́ГЛЫЙ, *прым.* Астылы, халодны. *Адкыпалі яго зь сьнегу ўжо астыглыга.* Пірагова Мсцісл.

АСТЫ́ГНУЦЬ, *дзеясл.* Астыць, зрабіцца халодным. *Астыг увесь чыста, рукі й ногі — як лядні.* Пірагова Мсцісл.

АСТЫНЫЎЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Астанаўляцца, прыпыняцца. *Пыдарожнікі ні зыхацелі астыныўляцца ды дальшы паехылі.* Палуж Краснап.

АСУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Марнець. *Ты, братка, пычаў асувацца; айдзе твой румяніц падзеўсь?* Пірагова Мсцісл.

АСУДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Асудзіць, вынесці прысуд. *Завочна яго асудзілі, ён і ня быў на судзе.* Маляцічы Крыч. *Асудзілі мужыка за нівошта.* Слаўнае Мсцісл. 2. Абгаварыць. *Асудзіць, абгывcovering чылавека — гэта іна можыць.* Пірагова Мсцісл.

АСУ́ДЛІВЫЙ, *прым.* Асудлівы, абгаворлівы [схільны да абгаворвання]. *Ні люблю я к ім хадзіць, дужа яны асудлівыя людзі, абгаворуць кругом!* Пірагова Мсцісл.

АСУ́ДНІК, -а, *м.* Той, хто любіць асудзіць, абгаварыць [асуджальнік]. *Асуднік ты! Ны сябе перве пыглядзі, тады над другімі сьмейся.* Пірагова Мсцісл.

АСУ́ДНІЦА, -ы, *ж.* Тая, што абгаворвае, асуджае [асуджальніца]. *Біряжысь Матруны, іна асудніца, кожныга асудзіць.* Палуж Краснап.

АСУЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Асуджваць, абгаворваць. *Дренна асужаць чылавека, калі ты сам ня лепшы зы яго.* Пірагова Мсцісл.

АСУЖО́НЫЙ, *прым.* Асуджаны, засуджаны. *Аб ім ужо німа чаго кызаць, ён ужо асужоный навек.* Юшкі Мсцісл.

АСУ́МІЦЦА, *дзеясл.* Засумаваць, зрабіцца сумным. *Асуміўся хлапец, як скызалі яму ета.* Галынец Краснап.

АСУРО́ЧАНЫЙ, *прым.* Зурочаны, уракнуты. *Асурочаный можыць тры дні хварець.* Пірагова Мсцісл. *Чаго йта наш маліц плачыць, ці ні асурочын ён?* Канічы Касцюк.

АСУРО́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Зурочыць, урачы. *Асурочылі мяне злыя людзі, рызламілыся мыя галовухна!* Пірагова Мсцісл.

АСЦА́, -ы, *ж.* Хвароба лішай. *У яго зывілась кароста, ну дык ета падкожныя асца ні даець яму жыць, нада ўвесь час скрэсьць цела.* Слаўнае Мсцісл. *У дзіцёнка гылыва ў струп'і — знаць, асца ў яго, усі выласы павыпадуць.* Глінь Касцюк.

АСЫБА́ЧЫЦЦА, *дзеясл.* Асабачыцца, страціць пачуццё павагі. *Асыбачыўся ты саўсім, ня хочыш ужо і старому ўважыць.* Пірагова Мсцісл.

АСЫБНЯ́К, -а, *м.* Асабняк, хутар. *Асыбняк майго дзеда тут, нідалёка ад нашай дзярэўні.* Ганнаўка Клім.

АСЫБНЯКО́М, *прысл.* Асобна. *Дзядзька Лявон жыве асыбняком.* Ганнаўка Клім.

АСЫКА́, -і, *ж. бат.* Асака, балотная трава. *У той амшары, што ладныя асыка! Вот коні ныядуцца!* Пірагова Мсцісл. *Кароўі асакі цельный мех ныжала.* Лінь Крыч.

АСЬВІЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Свяціць. *Ета раньш нада было асьвічаць, а січас і нісьвячоныя ладна — абы было.* Старае Сяло Мсцісл.

АСЬВЯЖЫ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Дыхнуць свежым паветрам. *Выйдзем на вуліцу, нада хуць троху асьвяжыцца, ато дужа душна тут.* Арцёмаўка Міласл. 2. Дайсці, кончыцца [закончыць агонію]. *Кыбан асьвяжыўся цераз пяць мінут, як яго зыкалолі.* Пірагова Мсцісл.

АСЬВЯЖЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Асвяжыць, упусціць свежага паветра. *Адчыні дзьверы, асьвяжы хату, ато накурылі, што дыхнуць нельга.* Пірагова Мсцісл.

АСЬВЯЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Асвятліцца, асвяціцца. *Полымем асьвяціўся зыкат.* Шыркі Раснян.

АСЬВЯЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Асвятліць, асвяціць. *Мылыдня ўсё неба асьвяціла.* Крычаў. *Мылыдня хату асьвяціла, дык усі куточкі відны сталі.* Лядзішча Міласл. 2. Пакрапіць святою вадою. *Новую хату хыдзяін павінен асьвяціць.* Слаўнае Мсцісл.

АСЬКЯЛЁПЫК, -пка, *м.* Трэсачка [адшчэпак]. *Калоў дровы, дык аськялёпык пыпаў у вока.* Хвёдараўка Краснап.

АСЬЛІ́БА, *прысл.* Хіба што. *Асьліба ён пaможа, больш некыму.* Палуж Краснап.

АСЬЛЯЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Разжалобіць да слёз. *Іна ўвесь род свой асьляліза.* Маластоўка Краснап.

АСЬЛЯПЕНЬНЯ, -я, *н.* 1. Асляпленне [зацямненне]. *Як асьляпеньня якоя найшло ны мяне — гляджу і нічога ні віджу.* Старае Сяло Мсцісл. 2. Адурэнне, непрытомнасць. *Найшло ны мяне асьляпеньня, ня ведаю сам, што раблю.* Пірагова Мсцісл.

АСЬМАК, -а, *м.* Асміна, мерка. *Купіў я ў горыдзі асьмак грачыхі на бліны.* Пірагова Мсцісл.

АСЬМАЧОК, -чка, *м.* Памянш. ад асьмак. *Асьмачок іржы нымылаціў і павёз у пруд малоць.* Юшкі Мсцісл.

АСЬМЕЛІЦЦА, *дзеясл.* Адважыцца. *Асьмеліўсь, падышоў бліжэй.* Пірагова Мсцісл.

АСЬМЕЛІЦЬ, *дзеясл.* Надаць адвагі, падбадрыць. *Угыварыў ён мяне, асьмеліў, цяпер ужо не баюся.* Пірагова Мсцісл.

АСЬМЕТАК, -а, *м.* Атопак [і бясформенны кавалак]. *Набуй хоць гетыя асьмёткі, усё ныга ня голыя.* Краснаполле. *Што ты даеш мне асьмёткі, ты мне дай новыя лапці!* Пірагова Мсцісл. *Убяры свае старыя асьмёткі.* Неравічы Крыч.

АСЬМУХА, -і, *ж.* 1. Васьмушка, пачак табакі. *Зайдзі к Довыду і купі ў яго дзьве асьмухі тыбакі.* Пірагова Мсцісл. 2. Асьміна. *Асьмуха бульбы стоіць тры рублі.* Сялец Клім.

АСЬМЯГА, -і, *ж.* Разамлеласць, стомленасць ад спёкі [асмягласць]. *Тыкая ны мяне асьмяга нып[а]ла, лень, не хачу нічога дзелаць.* Пірагова Мсцісл.

АСЬМЯГЛЫЙ, *прым.* Разамлелы, стомлены ад спёкі. *Калі жнеш, ды сонца дужа паліць — такі становісься асьмяглый, здаецца, ліжаў бы.* Пірагова Мсцісл.

АСЬМЯГНУЦЬ, *дзеясл.* Разамлець ад спёкі. *Калі жарка станець, асьмягнеш увесь, здаецца, выпіў ба вядро вады.* Асмолавічы Мсцісл.

АСЬПІД, -а, *м.* Злосны чалавек. *Асьпід етый ік пыймаіць — заб'ець да сьмерці.* Ушакі Чэрык. *Ета ні чылавек, ета — асьпід, зьвярюга.* Горкі Краснап.

АСЬПЯНЫЙ, *прым.* Воспавы. *Асьпяныя ліцо, рябыя ад воспы.* Пірагова Мсцісл.

АСЬЦЕНЬ, -я, *м.* Асцюк. *Як мылацілі ячмень, мне ў вока пыпаў вялікі асьцень.* Юшкі Мсцісл.

АСЬЦІРІГАННЯ, -я, *н.* Асцераганне, засцягора. *Ні вялікыя тут асьцірiганьня, нікога німа, ня бойсь.* Высокі Бор Краснап.

АСЬЦІРІГАЦЦА, *дзеясл.* Асцерагацца. *Ён, як ідзець у лыкі, дык раньшы узнаіць, адзе лясьнік, асьцірігаіцца, штоб ні пупасца яму.* Арцёмаўка Міласл.

АСЬЦЮК, -а, *м.* Асцюк. *Як мылацілі, пыпаў мне асьцюк у вока.* Арцёмаўка Міласл.

АСЬЦЮЛЬКА, -і, *ж.* Асцюк. *У гетай муцэ пупыдаюцца асьцюлькі, нада лепшы прысіваць.* Пірагова Мсцісл.

АСЬЦЯГЛА, *прысл.* Заўзята. *Ён, як возьмецца зы работу, асьцягла работыіць.* Большая Багацькаўка Мсцісл.

АСЬЦЯРОЖНЫСЦЬ, -і, *ж.* Асцярожнасць. *Ты ідзі ды пад ногі глядзі — асьцярожнысьць ніколі ня шкодзіць.* Старае Сяло Мсцісл.

АСЯЛОК, -лка, *м.* Асялок. *Дзе ты дзеў асялок, мне нада касу найстріць; нада було і пыклiпаць, ды ужу ніхай да вечыру.* Арцёмаўка Міласл.

АТ, *прыназ.* Ад. *Ат етай гразы будзець вялікыя страта хызяіну.* Канічы Касцюк. *Аж пасінеў ат холаду.* Шараеўка Чэрык.

АТ, *выкл.* Ат (выражае незадаволенасць). *Ат, ірунду ты поріш!* Слаўнае Мсцісл. *Ат, пакінь плявузгаць!* Пячоры Касцюк. *Ат, ні дурі гылавы!* Стары Стан Міласл.

АТАВА, -ы, *ж.* Атава, другая трава пасля пакосу. *Атава ўжо вялікыя, касіць нада.* Лінь Крыч. *Два вазы атавы ныкасілі.* Ушакі Чэрык.

АТАЙЦІ, дзеясл. Адысці. *Атайдзі, ато як пікану, дык будзеш знаць!* Паланіца Крыч. *У злосьці пысваріліся і пабіліся, а серца атайшло — зноў паміріліся.* Сохана Мсцісл.

АТАМКНУТЫЙ, *прым.* Адамкнуты. *Стаіць атамкнутый інбар і пызыбраны ўсі вокыркі!* Пірагова Мсцісл.

АТАМКНУЦЬ, *дзеясл.* Адамкнуць. *Хацеў атамкнуць дзьвер, ажно ключ не падыходзіць.* Пірагова Мсцісл.

АТАРВАЦЦА, *дзеясл.* Адарвацца. *У Янкавых калёсах атарвалыся стайно.* Ташна Клім.

АТАТКНУЦЬ, *дзеясл.* Адаткнуць. *Ататкні бутылку!* Палуж Краснап.

АТАЧЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Абтачыць [з'есці]. *Чэрьві капусту атачылі.* Палуж Краснап. 2. Завастрыць. *Дай мне ножык кырындаш атачыць.* Мсціслаў.

АТБАРОНА, -ы, *ж.* Адбарона, абарона. *Хата ні маіць ніякай атбароны ат ветру, стаіць ны галу і з усюль дзьме.* Пачаны Краснап.

АТБІВАЦЦА, *дзеясл.* Адбівацца, бараніцца. *Мы пычалі атбівацца ат іх, ды ні хапіла сілы.* Асмолавічы Мсцісл.

АТБІВАЦЬ, *дзеясл.* Адбіваць, біць цэпам насупраць другіх малацьбітоў. *Атбіваць нада ставіць дужыга хлыпца, не такога, як ты.* Пірагова Мсцісл.

АТБІРАЦЬ, *дзеясл.* Адбіраць. *Ны станцыі ўсіх абшуківаюць, усё атбіраюць.* Касцюковічы.

АТБІЦЦА, *дзеясл.* Адбіцца. *Ножка ў чарцы атбілыся.* Пачаны Краснап.

АТБІЦЬ, *дзеясл.* Адбіць. *Атбіў кывалык лёду і ўкінуў у возіра.* Лядзінічча Міласл. *Лясьнік атбіў мне сухастоіну і скызаў вывезьць у тры дні з лесу.* Асінікі Клім.

АТБІЦЬЦЯ, -я, *н.* Адбітак. *Ны яе твары атбіцьця ўсіх нішчасьцяў, якія іна вытрівыла.* Пірагова Мсцісл.

АТБОІНА, -ы, *ж.* Адбіты кавалак. *Гета атбоіна ат таго древа, што пярун разьбіў.* Пірагова Мсцісл.

АТБОРІК, -а, *м.* Лепшы гатунак. *Ета зярно — атборік, адно ў адно, ік золыта.* Б. Хутары Краснап.

АТБОРКІ, -аў, *мн. л.* Адабранае, адсартаванае. *Яблыкі-атборкі, ні аднаго порчыныга нет.* Горкі Краснап.

АТБРІХАЦЦА, *дзеясл.* Адбрахацца, адгаварыцца. *Я і сыма змагу ад іх атбріхац-*

*ца, ніхай дужа ні зыдаюцца!* Пірагова Мсцісл.

АТБЫВАЦЬ, *дзеясл.* Адбываць. *Татка паехаў атбываць падводы.* Ліпаўка Хоцім. *Сын атбываіць службу ў арміі.* Юшкі Мсцісл.

АТБЫЛДАКЫЦЬ, *дзеясл.* Хутка адбалбатаць. *Атбылдакылі абедню абы-як ды хутчэй зы банкет.* Нова-Ельня Краснап.

АТБЫРАНІЦЦА, *дзеясл.* Адбараніцца. *Ат вора і замком ні атбаронісься.* Пачаны Краснап.

АТБЫРАНІЦЬ, *дзеясл.* Адбараніць. *Атбыраніця мяне, дзядзічка, ат гэтых сыбак.* Сохана Мсцісл.

АТБЫ́ТЫЙ, *прым.* Адбыты. *Не, гетый дзень ужо лічыцца атбытым.* Пірагова Мсцісл.

АТБЫЎЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Адбаўляць. *Нады атбыўляць сваю ношку, дужа цяжка.* Лешчынка Мсцісл.

АТВА́ГА, -і, *ж.* Адвага. *У яе хопіць атвагі пайці аднэй уноччы.* Пірагова Мсцісл.

АТВА́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Адвыкнуць, пакінуць хадзіць. *Атвадзіліся яны ўжо, болі ня пойдуць.* Пірагова Мсцісл.

АТВА́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Адвучыць, адбіць ахвоту. *Я хачу атвадзіць іх, каб яны сюды не хадзілі.* Пірагова Мсцісл.

АТВА́ЖЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Адважваць, важыць. *Пайдзем ёй жыта атважывыць, дзядзька прынёс двыйняк.* Пірагова Мсцісл.

АТВА́ЖЫНЫЙ, *прым.* Адважаны, зважаны. *Гета сена ўжо атважыныя, яго тут дваццыць пудоў.* Юшкі Мсцісл.

АТВА́ЖЫЦЦА, *дзеясл.* Адважыцца. *Хто атважыцца з вас піряпрігнуць ціряз етый равок?* Канічы Касцюк.

АТВА́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Адважыць. *Атваж мне трі хунты сахыру.* Мсціслаў. *Атважыў яму хлеб, што пазычаў увосінь.* Ліпаўка Хоцім.

АТВАЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Адвазіць, высцебаць. *Я табе атважу пугаўём, будзеш памітуваць.* Хвёдараўка Краснап.

АТВА́Л, -а, *м.* Адвал. *Атвал зыраўся, нада плуг несьць к кывалю.* Бязводзічы Мсцісл.

АТВАЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Адвальваць. *Атваліві етый камінь, пад ім павінны быць чырвякі.* Судзілаўка Клім.

АТВАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Адваліць. *Атваліў камінь, а пад ім — курапа.* Дудараўка Міласл. 2. Адчыніць, адсунуць завал. *Атвалі вароты, татка прыехаў.* Хвёдараўка Краснап. 3. Адысці, [адпалавініць]. *Атваліла гылытва з хаты.* Там жа.

АТВА́Р, -у, *м.* Адвар, луг [настой на попеле]. *Ізьдзелый атвару, бельлё мыць нады.* Татаршчына Мсцісл.

АТВАРО́Т, -а, *м.* Адварот, ніз, спод, падбіўка. *Атварот майго пыльта зьдзелын з мульту.* Пірагова Мсцісл.

АТВАРО́ТНЫЙ, *прым.* Адваротны. *Гета атваротный бок сукна, а ты пыглядзі з правыга.* Юшкі Мсцісл.

АТВЕ́ДЫВЫНЬНЯ, -я, *н.* Адведванне, спроба. *Атведывыньня варіва.* Пірагова Мсцісл.

АТВЕ́ДЫЦЦА, *дзеясл.* Адведацца [наведаць]. *Ніхто хворыга чылавека і атведыцца ні пріходзіць.* Палуж Краснап.

АТВЕ́СЬЦІ [атвесьць], *дзеясл.* Адвесці. *Пакушый ты квасу, ён такій смашный, што калі пыспрабуіш, дык за вуха ат відра трудна будзіць атвесьць.* Старае Сяло Мсцісл.

АТВЕ́ТНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Адказнасць. *Я бяру ны сябе атветнысьць.* Хоцімск.

АТВЕ́ЦІЦЬ, *дзеясл.* [Адказаць, даць адказ], аддзякаваць. *Я яму зьдзелыў столькі дыбра, а ў яго тыкі хваціла совісьці так мне за ўсё атвеціць.* Бяседавічы Хоцім.

АТВІЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Адвязаць. *Пымажы мне атвізаць повыд, я ні 'твяжу.* Бяседавічы Хоцім.

АТВІЗА́ЦЦА, *дзеясл.* Адвязацца. *Прічапіўсь, як смыла, і атвізацца нільзя.* Лядзішча Міласл.

АТВІ́ЛЬВАЦЬ, *дзеясл.* Адвільваць, ухіляцца. *Ты ні атвільвай, а пряма кажы, ты ета зьдзелыў?* Лінь Крыч.

АТВІЛЬЖЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Адвільжэць, адсырэць, зрабіцца вільготным. *Куды ты цяпер будзеш гета сена гресьць, яно ўжо атвільжэла!* Пірагова Мсцісл.

АТВІЛЬНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Адвільнуць, ухіліцца. *Атвільнуў ён толькі, а ні скызаў праўды.* Ліпаўка Хоцім.

АТВІНЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Адвінціць, адшрубаваць. *Атвінці-ка ты етую гайку.* Арцёмаўка Міласл.

АТВІ́НЧЫНЫЙ, *прым.* Адвінчаны, зняты [адкручаны]. *Ляжыць атвінчыныя ручка ат веілкі, хто ета яе атвінціў?* Арцёмаўка Міласл.

АТВІТА́НЬНЯ, -я, *н.* Адвітанне, развітанне. *Як буду выіжджаць ат вас, дык ны атвітаньня ўжо пыцалуюсь с табой.* Ушакі Чэрык.

АТВІТА́ЦЦА, *дзеясл.* Адвітацца, развітацца. *Пыдажджы, нада з усімі атвітацца, тады пайдзем.* Верамеева Чэрык.

АТВО́ЙСТРІВЫЦЦА, *дзеясл.* Вастрыцца, навострываццa. *Што ты пыклаў тапор пад зэдлік, каб ён атвойстрівыўся?* (жартаўліва). Пірагова Мсцісл.

АТВО́ЙСТРІВЫЦЬ, *дзеясл.* Вастрыць, адвастраць. *Каб лепшы резаў нож, нады яго атвойстрівыць.* Пірагова Мсцісл.

АТВО́ЙСТРІНЫЙ, *прым.* Адвостраны, навостраны. *На табе мой нож, ён атвойстріны(э)й.* Сапрынавічы Мсцісл.

АТВУЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Адвучаць. *Я доўга атвучаў яго ат дренных слоў.* Пірагова Мсцісл.

АТВУЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Адвучыць. *Атвучу я цябе от етыга.* Рудня Клім. *Раньшы я курыў і піў, а січас не — жонка атвучыла.* Селішча Чэрык.

АТВЫЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Адваляць, аддубасіць. *Добря яму атвылялі, будзіць помніць!* Хвёдараўка Краснап.

АТВЫРА́ЧЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Адварочваць, адкіроўваць. *Атвырачывый кыня туды далій, ато пыдсанкымі зачэпіш за пень.* Бяседавічы Хоцім.

АТВЯСЬЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Адказаць. *Суседзі пыталі ў Сапрона, дык ён нічога ні атвясьціў.* Палуж Краснап.

АТГАВО́РА, -ы, *ж.* Адгавор. *Ты толькі к ім ня йдзі, а я сабе адгавору заўсёды знайду.* Нашкавічы Мсцісл. *Ета 'дна атгавора, што ў яго не зы шта купіць.* Б. Хутары Краснап.

АТГА́ДЛІВЫЙ, *прым.* Адгадлівы, здагадлівы. *Ох, якей жа ты атгадлівы(э)й, так зразу і пупаў у точку.* Пірагова Мсцісл.

АТГА́ДЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Адгадваць [разгадваць]. *Дывай будзем зыгадкі атгадывыць!* Пірагова Мсцісл.

АТГАЛО́СКІ, -сык, *мн. л.* Адгалосак, водгулле, рэха. *Во крыкнуў — ажны атгалоскі пашлі па ўсім лесе.* Парадзіна Мсцісл.

АТГАРНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Адгарнуць. *Атгарні-ка ты зірняты, ато повен кош насыпыўся.* Пірагова Мсцісл.

АТГАРУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Адгараваць. *Атгаруваў я сваю чаргу ў абозі.* Глінь Касцюк. *Вечны пакой, атгаруваў ён жыцьцё, цяпер атпачнець.* Судзілавічы Клім.

АТГЕ́ТУЛЬ, *прысл.* Адгэтуль, адсюль, з гэтага месца. *Пыхаць будзем атгетуль і вунь ды тае мяжы, што відна.* Пірагова Мсцісл.

АТГО́Н, -у, *м.* Адгон, перагон, двойчы перагнаная самагонка. *Атгону напіўся, дык цяпер вірадуя.* Хвёдараўка Краснап.

АТГО́РНЫВЫЦЬ [атгáрнывыць], *дзеясл.* Адгортваць, адграбаць. *Там нады стыяць каму атгорнывыць, ато іна ўсё ціріз край пірісыпаіцца.* Пірагова Мсцісл.

АТГО́ЦЫЦЬ, *дзеясл.* Адгоцаць, адскакаць. *Атгоцылі свадзьбу — нада і за работу брацца.* Сялец Клім. *Ну і атгоцылі мы сягоньня: досьвіту змылацілі асець, успыхалі дзісяціну, ды яшчэ і ў Жэрацін зьбегалі.* Пірагова Мсцісл.

АТГРАМІ́ЦЬ, *дзеясл.* Адваяваць [адстаяць з боем]. *Хуць з крыкам, з гвалтам, але ж атграмілі сабе тый лог, што хацелі.* Пірагова Мсцісл.

АТГРЫЗА́ЦЦА, *дзеясл.* Адгрызацца, адгаворвацца, адказваць груба. *Я яму кажу, а ён атгрызаецца.* Юшкі Мсцісл. *Ні атгрызайся ты ў мяне, бо дыстанеш лазіны.* Гусарка Клім.

АТГУ́ЖАНЫЙ, *прым.* Без гужоў. *Чаго гета хамут атгужаный выляецца.* Пірагова Мсцісл.

АТГУЖЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Адвязаць гужы. *Атгуж-ка ты хамут, нада пыслабіць гужы.* Асмолавічы Мсцісл.

АТГУКА́ЦЦА, *дзеясл.* Адгуквацца. *Ты ідзі, ня бойсь, мы табе будзем атгукацца.* Пірагова Мсцісл. *Мы гукалі, гукалі, а ён ні атгукаіцца — знаць, далёка зайшоў і ні чуець.* Гаўрыленка Бялынкав.

АТГУ́КІВЫЦЦА, *дзеясл.* Адгуквацца, адгукацца. *Калі будзеш дуць у пустую бутэльку, то там будзець атгуківыцца, як у званы.* Пірагова Мсцісл.

АТГУ́КІВЫЦЬ, *дзеясл.* Даваць водгалас [адклікацца рэхам]. *Лес можыць атгуківыць чылавечыя гыласы — такія 'тгалоскі пойдуць, што ўхадзі.* Пірагова Мсцісл.

АТГУКНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Адгукнуцца. *Хацеў я перве атгукнуцца, а тады думаю—не, пыляжу лепшы ціха.* Пірагова Мсцісл.

АТГУКНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Адклікаць. *Атгукнуў мяне ўбок, ды й кажыць: «Ідзі ты двору»,— я й пашоў.* Палуж Краснап.

АТГЫВАРІ́ЦЦА, *дзеясл.* Адгаварыцца. *Атгываріцца тут іму нечым: усі аб етым ведыюць.* Б. Хутары Краснап.

АТДА́НЫЙ, *прым.* Адданы. *Узяў ён атданый яму мех на плечы ды й панёс.* Пірагова Мсцісл.

АТДАРУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Аддараваць, аддзякаваць (падарункам). *Я летысь Міхасю даў быў кыня успыхаць пыд ярь, дык ён мне атдаруваў сёлета — прывёз мне пырасёнка.* Баханы Чэрык.

АТДАРУ́НЫК, -нка, *м.* Аддарунак, падзяка. *Гета будзіць мой атдарунык за тое, што ты мяне зь бяды вызваліў.* Пірагова Мсцісл.

АТДА́ЦЬ, *дзеясл.* Аддаць. *Калі знайшоў, дык нады атдаць, чужога ні нада браць!* Бяседавічы Хоцім. *Атдай ты сінельніку сваe штаны пасініць, ато рыжыя, як сыбака.* Ушакі Чэрык.

АТДЗЕ́РЖЫВАЦЬ, *дзеясл.* Вытрымаць, пратрымаць. *Калі курiца заквохчыць, то яе нада колькі дзён атдзержываць у погрaбе, каб іна пыхылыдала.* Пірагова Мсцісл.

АТДЗЕ́РЦІ (атадрáць, аддзéрць), *дзеясл.* Аддзерці. *Шкыда табе атдзерці шматок паперы, у цябе ж яе быгата!* Прыбярэж Раснян.

АТДЗІРА́ЦЬ, *дзеясл.* Аддзіраць, здзіраць. *Кабыла здохла, дык нада скуру атдзіраць.* Пірагова Мсцісл.

АТДЗЯ́КУВАЦЬ, *дзеясл.* Аддзякаваць. *Ты мне пасоб, а я табе ўжо атдзякую — дам табе гароху ці круп ячных.* Пячоры Касцюк.

АТДУБА́СІЦЬ, *дзеясл.* Аддубасіць, адлупцаваць, пабіць. *Атдубасіў я яго, як сьлед быць, цяпер будзець слухаць мяне.* Пірагова Мсцісл.

АТДУБА́ШЫНЫЙ, *прым.* Аддубашаны, высцебаны, пабіты. *Як я бачу, ты будзеш сяньні атдубашыный.* Юшкі Мсцісл.

АТДУДУ́РІВЫЦЦА, *дзеясл.* Аддудырвацца, адтапырвацца, адстаўляцца. *Нешта ў цябе кырман атдудурівыіцца, пакажка, што там ляжыць.* Пірагова Мсцісл.

АТДУДУ́РІНЫЙ, *прым.* Аддудыраны, адтапыраны, адстаўлены. *Нешта твой кырман дужа атдудуріны(э)й, вытряхівый яго!* Асмолавічы Мсцісл.

АТДУДУ́РІЦЬ, *дзеясл.* Аддудырыць, адтапырыць, адставіць. *Што атдудуріў?* Пірагова Мсцісл.

АТДУ́ТЫЙ, *прым.* Аддуты, няроўны, уздуты. *Ты пырыўнай мех, ато ён ў цябе нейкій атдутый.* Юшкі Мсцісл.

АТДУ́ХА, -і, *ж.* Аддушына. *Заторні-ка чым атдуху, каб пара ня выходзіла.* Пірагова Мсцісл.

АТДЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Аддаваць. *А мы яму ня будзем атдываць увесь гарод.* Пірагова Мсцісл.

АТДЫРЫВА́НЫЙ, *прым.* Аддараваны, падараваны. *Увесь атдырываны(э)й хвольварк пірідаў ён па духоўнай пляменьніцы.* Пірагова Мсцісл.

АТДЫ́ШКА, -і, *ж.* Аддышка, адпачынак. *Ну, хлопцы, цяпер атдышка на тры дні, раней ня буду працуваць!* Асмолавічы Мсцісл.

АТ'Е́ЗЬДЗІНЫ, -ін, *мн. л.* Ад'ездзіны [провады]. *Прііжджай к нам, будзем ат'езьдзіны спрыйляць — еду ў шахты.* Пірагова Мсцісл.

АТ'Е́СЬЦЬ, *дзеясл.* Ад'есці. *Мышы ўсі калосьсі ў снылах ат'елі, адны гузырі асталісь.* Верамеева Чэрык. *Уночы ваўкі ат'елі ногі жырябёнку.* Пірагова Мсцісл.

АТ'Е́ТУЛЬ, *прысл.* Адгэтуль, адсюль. *Ат'етуль ды Мсьціслаўля будзіць ікраз дзесяць вёрст.* Нашкавічы Мсцісл. *Далёка, ад'етуль ні відаць.* Пірагова Мсцісл. *Ат'етуль ды лесу кіламетры з два будзіць.* Палуж Краснап.

АТЖАЛКУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Пашкадаваць, паспачуваць. *Дужа скушна мне было, а ён прігалубій, атжалкуваў мяне, і нічога, палегчыла!* Пірагова Мсцісл.

АТЖАЛО́ВЫНЫЙ, *прым.* Падараваны, дадзены. *Етый маёнтык быў атжаловыны(э)й нейкыму шляхтычу.* Жэраціно Мсцісл.

АТЖА́ЛЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Падараваць, адпісаць па духоўнай, даць. *Дзядзька яго быгатый, хутыр маіць бальшэй, пылавіну яму атжалуіць.* Юшкі Мсцісл.

АТЖЫВА́ЦЦА, *дзеясл.* Аджывацца [выжываць], мажнець. *Ягор пымалу атжывацца пычаў: калёсы зьдзелыў, плуг.* Шыркі Раснян. *Атжыўся малысьць: купіў лышадзёнку, карову.* Пірагова Мсцісл.

АТЖЫ́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Адлічыць супроць згоды другога. *Атжыліў-ткі ў яго дзесяць рублёў!* Жэраціно Мсцісл.

АТЗА́ДЗІ, *прысл.* Адзаду, ззаду. *Ён ішоў атзадзі мяне, а я — наперадзе.* Пірагова Мсцісл.

АТЗА́ДУ, *прысл.* Адзаду, ззаду. *Ныпаў ны яго атзаду, той і ні агледзіўся — як відзіш, пываліў!* Сапрынавічы Мсцісл.

АТЗІ́МАК, -мка, *м.* Пярэзімак. *Есьць у мяне пара пырысят-атзімкаў.* Юшкі Мсцісл.

АТЗЫ́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Узаемна пазычыць, аддаць пазычанае. *Я табе пазычаў, цяпер ты мне атзыч, хоць хунты два.* Пірагова Мсцісл.

АТЗЫЧЭ́НЬНЯ, -я, *н.* Узаемная пазычка, вяртанне пазыкі. *Ён у мяне пазычаў, дык цяпер атдаў, дык ета ні пазычка, а атзычэньня.* Лядзішча Міласл. *Ён мне даў, а пысьля я — яму, во і вышла супольнае атзычэньня.* Жэраціно Мсцісл.

АТ'ІДА́ЦЦА, *дзеясл.* Ад'ядацца. *Летым у нас харошыя паша, каровы ат'ідаюцца к восені, хуць сала зь іх реж.* Арцёмаўка Міласл.

АТ'ІЖДЖА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Ад'язджаць. *Іван заўтрі ат'іжджаіць у шахты, пріхадзі прывыжаць.* Рэчыца Чэрык. 2. Адсоўвацца. *Пірвяжы там ніты, ато во ат'іжджаюць ніткі.* Бяседавічы Хоцім.

АТ'І́ЗНЫВА, *прысл.* Нанава. *Пычынай ат'ізныва, я ўжо тоя забыў.* Пірагова Мсцісл.

АТ'ІНА́ЧЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Перайначваць, перарабляць (назад). *Я атпыхаў тут мяжу, а ён узяў ды ат'іначыў па свойму.* Юшкі Мсцісл.

АТ'ІНА́ЧЫНЫЙ, *прым.* Перайначаны, перароблены. *Нехта тут нешта рабіў—етый кусок ат'іначыны(э)й, ні такей, як мы кідалі.* Юшкі Мсцісл.

АТКА́З, -у, *м.* Адказ, адмова. *Паехыў у сваты і палучыў атказ.* Пірагова Мсцісл. *Я ды цябе з ласкый, а ты ў атказ ругацца?* Старае Сяло Мсцісл.

АТКА́ЗА, -ы, *ж.* Адказ, адмова. *Біз атказы даў хлеба.* Нашкавічы Мсцісл. *Ідзі біз атказы: ні пайдзеш — хужы будзіць.* Б. Хутары Краснап.

АТКА́ЗЫВАЦЬ, *дзеясл.* 1. Адказваць, несці адказнасць. *Я зрабіў, я й атказываць буду.* Парадзіна Мсцісл. 2. Адмаўляць. *Атказываць мы яму ня будзем, скажам — ніхай яшчэ раз пріедзець.* Пірагова Мсцісл.

АТКА́ЗЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Адмаўляцца. *Раз пыстынавілі, дык нечыга цяперь атказывыцца — сам гылысываў!* Арцёмаўка Міласл.

АТКАЛУПА́ЦЬ, *дзеясл.* Адкалупаць. *Пымалу-пымалу, але аткалупаў сабе кывалык хлеба.* Пірагова Мсцісл.

АТКАЛУПА́НЫЙ, *прым.* Адкалуплены. *Аткалупаный кусочык ні прíставіш.* Пірагова Мсцісл.

АТКАЛУПІ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Адчапіцца [адкасацца]. *Аткалупісь ты ат мяне, ныхаба!* Галоўчыцы Калінішчына. *Вот прічапіўсь, што і аткалупіцца 'т яго нільзя.* Кажамякіна Краснап. 2. [Адкалупіцца], адламацца, аддзерціся. *Гляжу, ажно аткалупілась пасьці пылавіна.* Пірагова Мсцісл.

АТКАЛУПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Адкалупіць. *Аткалупіў я трошкі, ажно там нешта шавеліцца.* Пірагова Мсцісл.

АТКАЛУ́ПЛІНЫЙ, *прым.* Адкалупаны, адарваны. *Падносык у боце саўсім аткалупліны(э)й, і набуць німа як.* Нашкавічы Мсцісл.

АТКАЛУПНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Адкалупнуць, адламаць. *Аткалупнуў я пальцым, паспрабуваў — не, нісмашна.* Пірагова Мсцісл. *Аткалупнуў німнога хлеба дзіцёнку.* Палуж Краснап.

АТКАЛЫХА́ЦЬ, *дзеясл.* Адкалыхаць, адгушкаць, адшугаць [і адкачаць]. *Людзі выцігнулі дзеўку з вады і ледва (а)ткалыхалі.* Палуж Краснап.

АТКАСНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Адкаснуцца, адчапіцца. *Ды чаго ты прывізалысь, як асва, аткасьніcь ты ат мяне!* Старае Сяло Мсцісл. *Аткасьніcь ты, гора!* Пірагова Мсцісл. *Аткасьніcь ат мяне, чаго ты лезіш у вочы, як німаведыма хто.* Беразяк Краснап.

АТКА́СЫВАЦЬ, *дзеясл.* Адкасваць. *Я буду зь етыга боку аткасываць, а ты дзяржы, штобы іна ні закручывылась.* Пірагова Мсцісл.

АТКЕ́ЛЬ, *прысл.* Адкуль. *Аткель ты йдзеш? З горыду.* Юшкі Мсцісл.

АТКІДА́ЦЬ, *дзеясл.* Адкідаць. *На гумне нада снапы аткідаць.* Пірагова Мсцісл.

АТКІ́ДЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Адкідвацца, адбягацца. *Ён колькі разоў аткідываўсь ат яго, а тады зноў падбігаў.* Пірагова Мсцісл.

АТКІ́НУЦЦА, *дзеясл.* Адкінуцца. *Ён аткінуўсь ны падушку.* Пірагова Мсцісл.

АТКІПЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Накіпецца, зварыцца. *Бульба ўжо аткіпела.* Хвёдараўка Краснап.

АТКЛА́Д, -а, *м.* Адклад. *З зыработкыў аткляды дзелыў у банк.* Хвёдараўка Краснап.

АТКЛА́ТКА, -і, *ж.* Адбор [адкладванне]. *Я зынілась атклаткаю яец — хачу квакуху пысадзіць.* Пірагова Мсцісл.

АТКЛІЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Акрыяць, ачуняць, ажыць. *Быранок мой чуць атклііў, думаў— здохніць.* Хвёдараўка Краснап.

АТКЛО́Н, -у, *м.* 1. Ухіл. *Едзь прама з гары, і там будзіць атклон управа, туды і звырачвай.* Пірагова Мсцісл. 2. Развітанне. *Ён жа, як чужы, як ехаў з дому, дык навыт ны атклон з маткай ні пацулуваўсь.* Ушакі Чэрык.

АТКЛЫДА́НЬНЯ, -я, *н.* 1. Адкладанне, адбор. *Што ета за (а)тклыданьня? Калі атклыдаеце, дык атклыдайця добря, ато гнілых накідалі.* Жараціно Мсцісл. 2. [Уклад, зберажэнне]. *Наш поп дужа скупы(э)й, усі грошы хуваіць — атклыданьня у банк робіць.* Старае Сяло Мсцісл.

АТКЛЫДА́НЫЙ, *прым.* Адкладаны, адабраны, адсартаваны. *Ня руш, ета буракі атклыданыя на продаж.* Пірагова Мсцісл.

АТКЛЫДА́ЦЬ, *дзеясл.* Адкладаць, адбіраць, адкладваць. *Нады сьпялейшыя яблыкі атклыдаць. Яны атклыдаюць сьпялейшыя ігрушы, заўтрі пывязуць на бызар.* Пірагова Мсцісл.

АТКО́СЫК, -ска, *м.* Адкосак, прамень. *Сонічныя аткоскі з-зы хмары відны.* Хвёдараўка Краснап.

АТКРЫМСА́ЦЬ, *дзеясл.* Адкрамсаць, адрэзаць. *Аткрымсаў кывілюгу хлеба, ці зьясі ж ты яго?* Хвёдараўка Краснап.

АТКРЫСУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Адкрасавацца, пажыць у дастатку. *Аткрысувалысь, атпанувалысь, покі замуж ні вышла.* Барысавічы Клім.

АТКРЫ́ШАНЫЙ, *прым.* Адкрышаны, адбіты [адломлены кавалкамі]. *Чаму ета мел аткрышаный, хто йта з вас яго ськівуў?* Пірагова Мсцісл.

АТКРЫШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Адкрышыць, адламаць, адбіць. *Аткрышыў-т'кі гылаву ў сьвістульцы. А, што за хлопец — нічога ў яго ні пабудзець!* Пачаны Краснап. 2. Накрышыць. *Аткрышыў ён у чугунок бульбы і пыставіў у печ.* Юшкі Мсцісл.

АТКУЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Перакуліцца, абярнуцца. *Тыя вазы паехылі ўперыд, а мой аткуліўся, прышлось узноў пірівязывыць.* Пірагова Мсцісл.

АТКУ́ЛЬ, *прысл.* Адкуль. *Адкуль ета ты пыд'явіўся сюды і чаго ты прішоў?* Арцёмаўка Міласл. *Дзіўлюся я, аткуль усё гета ў цябе бярэцца.* Усполле Раснян. *Аткуль ета ты пыд'явіўся зналопу?* Кокатава Мсцісл.

АТКУ́ЛЯ, *прысл.* Адкуль. *Аткуля ета ны маю гылаву ныхаба тыкая?* Дубеец Касцюк. *Аткуля ты прійшоў?* Нова-Ельня Краснап.

АТКУЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Перакульвацца. *Воз мой кепска ўкладзены, дык усе аткуляецца, нады добря ўвізаць яго.* Пірагова Мсцісл.

АТКУМІ́ЦЦА, *дзеясл.* Адкуміцца, перастаць быць добрымі прыяцелямі. *Былі мы зь ім добрымі кумамі, а цяперь аткуміліся, рассваріліся.* Пірагова Мсцісл.

АТКУПІ́ЦЦА, *дзеясл.* Адкупіцца. *Ну, аткупіўсь я 'д яго, цяпер ня будзець лезьць.* Пірагова Мсцісл.

АТКУПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Адкупіць. *Ён у мяне аткупіў етыга жырыбка за тріста рублёў.* Жэраціно Мсцісл.

АТКУТА́ЦЬ, *дзеясл.* Адчыняць. *Ні нада хату аткутаць, ато халодна сяньні.* Пірагова Мсцісл.

АТКУ́ТЫНЫЙ, *прым.* Адчынены. *Чаго ты кінуў аткутынюю хату? Зачыні халодна будзець.* Юшкі Мсцісл.

АТКЫЗА́ЦЦА, *дзеясл.* Адказацца, адмовіцца. *Яго прісілі аткызацца ат сваіх слоў.* Бяседавічы Хоцім.

АТКЫЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Адказаць. *Волька напісала мне пісьмо, а я ніяк ні зьбярусь ёй аткызаць.* Старае Сяло Мсцісл. *Бацька мне аткызаў кыня.* Палуж Краснап.

АТКЫЛАТУ́ШЫЦЬ, *дзеясл.* Пабіць. *Аткылатушу цябе січас.* Хвёдараўка Мсцісл.

АТКЫРАСКІВЫЦЦА, *дзеясл.* Выкручвацца [адкарасквацца]. *Калі пычануць прістываць — будзем ужо як-небудзь аткырасківыцца.* Пірагова Мсцісл.

АТКЫРА́СКЫЦЦА, *дзеясл.* Адчапіцца, адвязацца, пазбавіцца [адкараскацца]. *Насілу аткыраскыўсь ат яго.* Б. Хутары Краснап. *Чуць аткыраскылісь мы ат іх — дывай грошы, ды й толькі!* Пірагова Мсцісл.

АТКЫРХА́ЦЬ, *дзеясл.* Адкархаць. *Як узяў яго кашыль, дык насілу аткырхаў.* Пірагова Мсцісл.

АТКЫСА́НЫЙ, *прым.* Адкасаны. *У мяне рукавы аткысаны, ты лепшы ідзі туды!* Пірагова Мсцісл.

АТКЫСА́ЦЦА, *дзеясл.* Адкасацца, адчапіцца, пазбавіцца. *Треба як ня есьць аткысацца 'т яго.* Хвёдараўка Краснап.

АТКЫШЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Адкашляць, перастаць кашляць [у пераносным сэнсе — памерці]. *Аткышляў, бедный, сяньня ўночы, я ўжо яго рытувала, а німа рады!* Пірагова Мсцісл.

АТЛАМІ́ЦЬ, *дзеясл.* Адламаць. *Атламі галіну ды пыдгані кыня, ніхай пыдбяжыць троху, ато да вечыра ні даедзім.* Дубеец Касцюк.

АТЛА́НДЗІР, -а, *м.* Вісус, шыбеннік, прайдзісвет. *Добрый атландзір зь яго выйдзе, як вырасьце; ужо й цяперь што выдзеляіць — нічога ні баіцца.* Хвёдараўка Краснап.

АТЛА́С, -у, *м.* Атлас, тканіна. *На кохту я сабе атласу купіла.* Стары Стан Міласл. *Дзявоцкыя крысá — атлас ды кітайка,* ‖ *Атлас ды кітайка, хлапецкыя пыдманка.* З нар. песні, М. Г. 74.

АТЛЕ́ГА, -і, *ж.* Адліга. *Пысьля вялікыга марозу стала атлега, аж с стрех пыцурчэла.* Слаўнае Мсцісл. *Етыя дні ны дваре атлега, дайжа капыць пычало.* Нашкавічы Мсцісл.

АТЛЕ́ГЛА, *прысл.* На адлегласці, далё-

ка. *Поле гетае знаходзіцца досіць атлегла ат хутыра.* Пірагова Мсцісл.

АТЛЕ́ГЛАСЬЦЬ, -і, *ж.* Адлегласць. *У нас дзярэўні ліжаць у вялікай атлегласці адна ат аднае.* Жэраціно Мсцісл.

АТЛЕ́ЖКА, -і, *ж.* Памянш. ад адліга. *Вароны літаюць, як відаць, атлежка будзя.* Гарадзец Бабр.

АТЛІ́Г, -у, *м.* Адліга. *Будзя атліг — куры купаюцца ў падпечку.* Маластоўка Краснап.

АТЛІ́ГА, -і, *ж.* Адліга. *Учора быў мароз ны двары, а сяньня атліга — са стрех капыюць каплі.* Старае Сяло Мсцісл. *Сяньні атліга, сьнег асеў і з крыш капыіць, ды і цёпла-тыкі.* Арцёмаўка Міласл.

АТЛІГНУ́ЦЬ [атлягну́ць], *дзеясл.* Адлегчы, адысці. *Сяньня трошкі адлігнуў мароз.* Пірагова Мсцісл. *Во напужалысь, што чуць ат серца атлігнула.* Парадзіна Мсцісл.

АТЛІ́НАК, -нка, *м.* Тлусты, тоўсты, як лін. *Тваё дзеці, як атлінкі.* Хвёдараўка Краснап.

АТЛІПА́ЦЬ, *дзеясл.* Адліпаць, адста́ваць. *Пріліп нейкій лісточык і ні атліпаіць.* Пачаны Краснап.

АТЛІ́ПЛЫЙ, *прым.* Адклееены. *Узяў я тую атліплую марку ды зноў ныляпіў ны канверт.* Пірагова Мсцісл.

АТЛІ́ПНУЦЬ, *дзеясл.* Адліпнуць, адчапіцца. *Атліпні ты, прістаў, як банны ліст.* Пірагова Мсцісл.

АТЛІХА́ЦЦА, *дзеясл.* Адмовіцца, ухіліцца ад ліха. *Іна атліхалыся 'т яго, як ён такей.* Б. Хутары Краснап.

АТЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Адліць. *Трэба хутка ваду атліць зь етыга цэбра, ато зараз пыцячэ.* Нашкавічы Мсцісл. *Атлі німнога вады с чайніка, ато пыбяжыць.* Маластоўка Краснап.

АТЛІ́ЧАНЫЙ, *прым.* Адлічаны. *Усі атлічаныя грошы я пыклаў у кырман.* Пірагова Мсцісл.

АТЛІ́ЧЫВАЦЬ, *дзеясл.* Адлічваць. *Пойдзем атлічываць ёй яе частку.* Юшкі Мсцісл.

АТЛІШЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Пазбавіцца [страціць]. *Атлішыўсь я свайго ўсяго — нічога ні маю.* Ушакі Чэрык.

АТЛО́ГА, -і, *ж.* Палёгка, адтэрмінаванне. *Ні магу зыплаціць — дайця атлогі.* Палуж Краснап. *Плаці, і атлогі німа.* Жлобін.

АТЛО́ГІСТЫЙ [атло́жыстый], *прым.* Адхонны, спадзісты. *Наша мясцовысьць атлогістыя.* Пірагова Мсцісл.

АТЛО́ГЛІВА, *прысл.* Адхона. *З аднаго боку гыра была крутая; а з другога іна атлогліва спушчалысь к рацэ.* Пірагова Мсцісл.

АТЛО́ГЛІВЫЙ, *прым.* Адхонны. *Бераг рякі тут атлоглівый.* Пірагова Мсцісл.

АТЛУМЕ́НЫЙ, *прым.* Затлумлены, задураны. *Гетыя дні я хажу, як атлумёный.* Юшкі Мсцісл.

АТЛУМЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Затлумленне, марока. *Поўныя атлуменьня у мяне цяперь у гылаве.* Пірагова Мсцісл.

АТЛУМІ́ЦЬ, *дзеясл.* Затлуміць, задурыць. *Атлуміў ён мяне сваім стукым.* Хоцімск. *Ну цябе саўсім! Атлуміў ты маю галовухну, ныдакучыў!* Паланіца Крыч.

АТЛУ́МЛІНЫЙ, *прым.* Затлумлены, задураны. *Так у мяне гылыва сяньня баліць, проста атлумленыя я гетым шумам.* Пірагова Мсцісл.

АТЛУПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Ададраць. *Атлупілі балоніну 'т сасны на лучыну.* Брылёўка Краснап.

АТЛУПЦУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Адлупцаваць. *Атлупцувала сяньня свайго Юрку, больш ні захоча.* Брылёўка Краснап. *Атлупцуй ты етыга птушатніка, нашто ён птушынятак давя.* Хвёдараўка Краснап.

АТЛУЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Адлучыць, аднаць. *Дзіцёнка ат цыцкі пыра атлучыць.* Лядзішча Міласл. *А сухая ляшчынычка || Дарожку, зыламіла, || Нялюбыя дружыніца || Ат роду атлучыла.* З нар. песні, М. Г. 91.

АТЛЫ́ГА, -і, *ж.* Адліга. *Як пачылася атлыга, дык сьнег і сыгнала.* Хвёдараўка Краснап.

АТЛЫМА́ЦЬ, *дзеясл.* Адламаць. *У плашчы атлымаў рычаг.* Брылёўка Краснап.

АТЛЯЦЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Адляцець. *Крыло з хаты атляцела.* Брылёўка Краснап.

АТМАЙСТРУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Адмайстравацца [управіцца, закончыць справу]. *Ну, атмайструваўсь я, хату пабудуваў, цяперь можна ехаць.* Пірагова Мсцісл.

АТМАЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Адпрасіцца, вымаліць. *Ат етыга радзімца ні атхрысьціcься, ні атмолісься.* Палуж Краснап.

АТМАРО́ЗІЦЬ, *дзеясл.* Адмарозіць. *Мабыць, атмарозіў я сабе нагу, нешта я яе ня чую.* Лінь Крыч. *Ні чыпай, дзеткі, пальцым, ато зюзька пальчык атмарозіць.* Барысавічы Клім.

АТМАТЫЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Адмахаць, прайсці. *Я сяньня за дзень шэсьцьдзесят вёрст атматыляў!* Пірагова Мсцісл.

АТМАХНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Адмахнуцца, адагнаць. *Нада ўзяць палку, ато ідзе сыбакі кінуцца, дык ня будзіць чым атмахнуцца.* Арцёмаўка Міласл.

АТМЕ́НА, -ы, *ж.* Адмена. *Узяў у суседа аўса ны атмену на свой авёс.* Папоўшчына Мсцісл. *Бацька работыў ды абеда, а пысьля я пашоў ны атмену.* Старае Сяло Мсцісл. *Атмена пыдасьпела вовріме, ато яго ўжу чуць ні рыстрілялі.* Бяседавічы Хоцім.

АТМО́КЛЫЙ, *прым.* Адмоклы. *Нада прінясьці двору атмоклыя палотны з лугу.* Пірагова Мсцісл.

АТМЫГА́ЦЦА, *дзеясл.* Адмагацца. *Бацькі ўгываріюць хлыпца жаніцца, а ён атмыгаіцца.* Б. Хутары Краснап.

АТМЫКА́ЦЬ, *дзеясл.* Адмыкаць, адчыняць. *Прынясі-ка ты свой ключ, нада хату атмыкаць.* Стары Дзедзін Міласл.

АТМЫКА́ЦЬ, *дзеясл.* [Адмачаць], закончыць мачаць. *Атмыкала латкі ў сала.* Пірагова Мсцісл.

АТМЫЛАДЗЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Памаладзець. *Атмыладзеў я на дзесяць гадоў, як пачуў, што сын жыў.* Пірагова Мсцісл.

АТМЫЛІВА́НЫЙ, *прым.* Адмаляваны, намаляваны. *Вісіць палтрет атмыліваны(э)й, прігожый такей.* Пірагова Мсцісл.

АТМЫХА́ЦЬ, *дзеясл.* Адмахаць. *Атмыхаў я цэпым, хопіць зь мяне, дзьве нядзелі ўзапыр мылацілі.* Пірагова Мсцісл.

АТМЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Адмыць. *Атмый-ка ты мне хустку, там нейкыя пляма.* Юшкі Мсцісл.

АТМЯНІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Адмяніць, вымяняць. *Трэба атмяніць сабе ны пасеў у каго-небудзь аўса.* Папоўшчына Мсцісл. 2. Падмяніць у рабоце. *Мяне ніхто ні атменіць, усё самому нада зьдзелыць.* Палуж Краснап.

АТНА́ДЛЫЙ, *прым.* Настойлівы. *Ён такій атнадлый, калі ўжо што захочыць, то зробіць.* Пірагова Мсцісл.

АТНАСІ́ЦІЛЬНА, *прысл.* Адносна. *У нас сяньня будзіць рада атнасіцільна прывядзеньня празьніка.* Канічы Касцюк.

АТНЕ́КЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Аднеквацца, адмаўляцца. *Ты ні атнекывыйсь, а дывай.* Б. Хутары Краснап.

АТНЕ́КЫЦЦА, *дзеясл.* Аднеквацца, адмаўляцца [і адмовіцца]. *Ты ўжо ні атнекыйся, усё роўна ведаім, хто ты такі.* Старае Сяло Мсцісл.

АТНЕ́СЬЦІ [атнесьць], *дзеясл.* Аднесці. *Атнеслі ўжо свой хлебіц за доўг.* Хвёдараўка Краснап. *Атнясі ў поля бацьку абед.* Гібалы Касцюк.

АТО́, *злучн.* Бо. *Кряпчэй сцісьні клешчы, ато парвецца хамут.* Бяседавічы Хоцім. *Маўчы, шэльма, ато скуру спушчу, зысяку на сьмерць!* Зяціца Мсцісл.

АТО́Ж, *часц.* Хіба [ці]. *Атож я ні кызала табе, ні чыпай вылацюгу?* Паходавічы Чэрык. *Атож і сяньня пойдзеш?* Каробчына Мсцісл.

АТО́ЙСТРІВЫЦЬ, *дзеясл.* Вастрыць [навострываць]. *Пывязу к кывалю тыпары атойстрівыць.* Пірагова Мсцісл.

АТО́ЙСТРІНЫЙ, *прым.* Навостраны. *Гетый тапор добра рубіць — атойстріны(э)й, як брітва.* Стары Стан Міласл.

АТО́ПАК, -пка, *м.* Атопак, стоптаны лапаць ці бот. *Знайшоў старый атопак ны дарозе ды цігаіць.* Пірагова Мсцісл. *Абуў атопкі ды пашоў.* Хвёдараўка Краснап. *Ён мне дайжа новых ботаў ні справіць, хаджу ў нейкіх атопках.* Юшкі Мсцісл.

АТО́ПКА, -і, *ж.* 1. Апал. *Атопкі зыпысаў на ўсю зіму.* Палуж Краснап. 2. Дзверцы ў печцы, топка. *Наша атопка з другога боку.* Старае Сяло Мсцісл.

АТО́ПЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Атопліваць [абаграваць]. *У етым годзе зіма дужа сьцюдзёныя, трэба добра атоплівыць хату.* Старае Сяло Мсцісл. *Етыю адріну ні знаю чым атоплівыць.* Краснаполле.

АТО́ПШЧЫК, -а, *м.* Апальшчык. *Печыў быгата, атопшчык ні пасьпіваіць атоплівыць.* Краснаполле.

АТО́РА, -ы, *ж.* Дробная салома, каласкі пасля малацьбы. *Прінясі каровам аторы, хай ядуць.* Вародзькава Крыч. *Нада лепшы вычышчаць атору, калі малоціш, ато многа кыласкоў у зірнятых.* Пірагова Мсцісл. *Аторы сёліта многа, хопіць кароўкам.* Хвёдараўка Краснап.

АТО́РВА, -ы, *м.* і *ж.* Вісус [лодар, гультай]. *Ну і аторва ж твой сын!* Галоўчыны Клім. *Ну і ўдалісь сыночкі — нідзе за імі ні прайдзі, во аторвы!* Старае Сяло Мсцісл.

АТО́РВІНА, -ы, *м.* і *ж.* Лодар, гультай. *Во йшчэ аторвіна: скура на ім гаворя!* Хвёдараўка Краснап.

АТО́РКА, -і, *ж.* Памянш. ад атора. *Насып-ка ты на ныч аторкі коням!* Пірагова Мсцісл.

АТО́РНІЦА, -ы, *ж.* Лубка, у якой носяць атору. *Мы сяньні з асеці намыляцілі шэсць аторніц аторі.* Бяседавічы Хоцім.

АТО́РЬРЯ, -я, *н.* Дробная салома, дробнае калоссе пасля малацьбы. *Усё зьнясьлі з гумна, толькі аторьря зысталося ны таку.* Пірагова Мсцісл.

АТО́РЯ, -і, *ж.* Дробная салома, каласкі пасля малацьбы. *Нада веілку пыставіць гылавою к ветру, штоб аторю ветрым дальшы атнасіла.* Арцёмаўка Міласл. *Дадому, госьціікі, дадому,|| Паелі конікі салому,|| Пышанішную аторю.* З нар. песні, М. Г. 37.

АТО́СА, -ы, *ж.* Атоса, нацяжнік у калёсах ад канца пярэдняй восі да аглоблі. *Надзень атосу, ато ны адной аглаблі едзеш!* Бяседавічы Хоцім. *У Мікіты пырвалысь атоса.* Ташна Клім. *Цісовыя калёсы, шаўковыя атосы,|| А хто ж на іх паедзіць?* З нар. песні, М. Г. 62.

АТО́СІНА, -ы, *ж.* Асобная атоса. *Перымяні ты гету атосіну, ато іна лопніць.* Пірагова Мсцісл.

АТО́СКА, -і, *ж.* Памянш. ад атоса. *Справій сабе калёсы ны зялезным хаду, атоскі тож зялезныя.* Пірагова Мсцісл.

АТО́СЬНІК, -а, *м.* Канец атосы [кольца], што надзяваецца на вось. *Атосьнік ськінуўсь, падымі ды пакруці атосу.* Хвёдараўка Краснап. *Зваліўсь атосьнік, і калёсы пашлі бокам.* Бяседавічы Хоцім.

АТО́ЧАНЫЙ [атто́чаный], *прым.* Завостраны. *Добра аточаный кырындаш.* Пірагова Мсцісл.

АТПАВЕ́ДНЫЙ, *прым.* Адпаведны. *Зрабій ёй атпаведныя ныстаўленьня.* Юшкі Мсцісл.

АТПАВІДА́ЦЬ, *дзеясл.* Адпавядаць. *Гэтыя чуткі быдай што атпавідаюць праўдзе.* Юшкі Мсцісл.

АТПАКУ́ТАНЫЙ, *прым.* Адпакутаваны. *Прыпомняцца табе атпакутаныя мае сьлёзы.* Юшкі Мсцісл.

АТПАКУ́ТАЦЬ, *дзеясл.* Адпакутаваць. *Атпакутаў, атгырываў я, калі ня меў ніякыга прытулку.* Пірагова Мсцісл.

АТПАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Адпаліць. *Лёг пры агні ды атпаліў сабе падол у армяку.* Прыбярэж Раснян. 2. Набедакурыць. *Ён там такей гармідыр атпаліў, проста ўсі папужаліс.* Пірагова Мсцісл.

АТПАЛЬНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Набедакурыць. *І атпальнуў жа я штуку сягоньня!* Пірагова Мсцісл.

АТПАНУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Адпанаваць. *Аткрасуесься, атпануесься, замужам быўшы.* Пірагова Мсцісл.

АТПАНУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Адпанаваць, пажыць у дастатку. *Атпанаваў ты сваё, дай цяпер другім пажыць!* Верамеева Чэрык.

АТПА́РЫВАЦЬ, *дзеясл.* Пароць сшытае, распорваць. *Кравец пычаў атпарываць сьвітку.* Палуж Краснап.

АТПАЧНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Адпачыць. *Лягу я, атпачну трохі.* Юшкі Мсцісл. *Атпачнуў трохі ды будзя — устывай!* Гаўрыленка Бялынкав.

АТПАЧЫВАНЬНЯ, -я, *н.* Адпачыванне, адпачынак. *У нас пакуль што атпачываньня — жыта дыжалі, а ярі німа сьпелай.* Юшкі Мсцісл.

АТПЕТАЦЬ, *дзеясл.* Пабіць, высцебаць. *Я цябе атпетаю, дык ты зараз пойдзеш пасьціць авец.* Паланіца Крыч.

АТПІВАЦЦА, *дзеясл.* Піць уволю, напівацца. *Будзем у вясну атпівацца бярозавіку.* Пірагова Мсцісл.

АТПІЛІКАЦЬ, *дзеясл.* Адпілікаць, адыграць [закончыць іграць]. *Прышоў скымарох, атпілікаў нам на скрыпцы, а мы атгоцылі.* Арцёмаўка Міласл. *Музыкант атпілікаў нам на скрыпцы неякія новыя скокі.* Пірагова Мсцісл.

АТПІЛІЦЬ, *дзеясл.* Адпілаваць. *Пасобка ты мне калодку атпіліць!* Пірагова Мсцісл. *Дывай атпілім етае дрэва ды самай расьсечкі, айдзе цалейшае.* Юшкі Мсцісл.

АТПІЛКА, -і, *ж.* Пілаванне, рэзка. *Ужо атпілка дроў у лесе йдзець.* Мазалава Мсцісл.

АТПІЛЫВАНЫЙ, *прым.* Адпілаваны, адрэзаны. *Там кыла сталюг ліжаць атпілываныя досткі, і ат іх пахніць смалою.* Арцёмаўка Міласл.

АТПІРАНЬНЯ, -я, *н.* Адпіранне, адмаўленне фактаў, адраканне. *Ніякыя атпіраньня ні паможа — усі ведаюць, што ета ты зрабіў.* Старае Сяло Мсцісл.

АТПІС, -а, *м.* 1. Адказ на афіцыйную паперу. *Столькі ўсілякіх рыспыряжэньній і зыгадый пыступаіць з акругі, што ні ўправісься с атпісым.* Мсціслаў. 2. Перадаць спадчыну праз духоўны запіс. *Пірід сьмерьцю бацька зьдзелый атпіс сыну-гудуваньніку пылавіну і даццэ пылавіну.* Палуж Краснап.

АТПІСАЦЬ, *дзеясл.* 1. Адпісаць, адказаць на пісьмо. *Напісала яму пісьмо, а ён мне ні (а)тпісаў.* Лядзішча Міласл. 2. Перадаць спадчыну праз духоўны запіс. *Дзядзька яму пылавіну зямлі атпісаў. Ён атпісаў усё жонкі пірід сьмерцью, і духоўныя ета была ў жонкі ны руках.* Арцёмаўка Міласл.

АТПІСКА, -і, *ж.* Адказ на пісьмо ці паперу. *З раёну цэлых пяць паперак пріслалі, атпіску нада зьдзелыць.* Пацолтава Мсцісл.

АТПІХАЦЬ, *дзеясл.* Адпіхаць, адштурхваць. *Ён пычаў атпіхаць мяне, штоб я ні дыстаў.* Пірагова Мсцісл.

АТПІЦЬ, *дзеясл.* Адпіць, надпіць, выпіць не ўсё. *Ты, мабыць, сам атпіў тут — нешта няпоўна.* Лінь Краснап.

АТПЛОДЫК, -дка, *м.* Прыплод. *Ета цёлычка — атплодык ат пародзістый каровы, што ў саўхозі.* Арцёмаўка Міласл. *Кабыла вельмі добры атплодык дыла.* Шыркі Раснян.

АТПЛУТЫЦЦА, *дзеясл.* Адблытацца, адчапіцца. *Треба як-небудзь атплутыцца ат іх.* Маластоўка Краснап.

АТПЛЯСЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Адплясваць, вытанцоўваць. *Во ўжу атплясывыіць, аж зімля дріжыць.* Горкі Краснап.

АТПОВІДЗЬ, -і, *ж.* Адказ, праборка. *Даў я яму ладную атповідзь за ета, болі ня пойдзець.* Пірагова Мсцісл.

АТПРАВА, -ы, *ж.* Набажэнства. *Ны радыніцу буваіць атправа ны магільніку.* Пірагова Мсцісл.

АТПРАТЫЦЬ, *дзеясл.* Распрануць, расхутаць. *Нада дзіцёнка атпратыць, ато ён сагреіцца ў хаце, тады прастудзіцца.* Пірагова Мсцісл.

АТПРУДЗІЦЬ, *дзеясл.* Адлупцаваць, пабіць. *Здорва ён яго атпрудзіў!* Хвёдараўка Краснап.

АТПРЫРОДКУ, *прысл.* Зроду, з нараджэння. *Хлопчык атпрыродку храмэй.* Палуж Краснап.

АТПУДЗІЦЬ, *дзеясл.* Адпужаць, адпалохаць [адвучыць]. *Атпудзіў я гетыга сыбаку хадзіць сюды, як даў яму колам пы гылаве.* Пірагова Мсцісл.

АТПУЖЫВАНЬНЯ, -я, *н.* Адпужванне, палоханне. *Яны ўсё там страшныя казкі яму кажуць, во з-за гетыга атпужываньня ён і ня хочыць туды іці.* Пірагова Мсцісл.

АТПЫЛЫСЫВАЦЬ, *дзеясл.* Адпаласаваць, адлупцаваць. *Спыйманыга злодзія людзі сілна атпылысывалі.* Бугадошч Мсцісл. *Атпылысываў хлыпца, спыймаўшы у садзе.* Палуж Краснап.

АТПЫЛЫХАЦЬ, *дзеясл.* Даць добра, пабіць. *Во атпылыхаў сёньня аднаму хлопцу, дык атпылыхаў.* Хвёдараўка Краснап.

АТПЫХАЦЬ, *дзеясл.* Адараць. *Я быў атпыхаў тут мяжу, а ён узяў ды атʼіначыў.* Юшкі Мсцісл.

АТРАЗ, *прысл.* Адразу. *Атраз скызаў: вярніся, дык вярніся, ато (а)тлупцую.* Хвёдараўка Краснап.

АТРАЗУ, *прысл.* Адразу. *Я атразу ўбачыў, што ён за птушка. Сайка атразу прачухаў, што дренна яму будзя.* Палуж Краснап. *Ты атразу ўсю ваду із жбына выжлукціш, пакінь мне хуць каплю.* Слаўнае Мсцісл.

АТРАІВЫЦЬ, *дзеясл.* Адрайваць, адгаворваць. *Ня буду яго атраівыць, ніхай дзелыіць, як хочыць.* Арцёмаўка Міласл. *Я хацела ехыць у горыд ны зарыбыткі, але знаёмыя пычалі атраівыць мяне, я й ні паехыла.* Нашкавічы Мсцісл. *Атраівыць я ні стану—іна ладныя дзеўка.* Палуж Краснап.

АТРАІНЬНЯ, -я, *н.* Адрайванне, адгавор. *Колькі я ні атгуварівый яго, маё атраіньня ні пымагло, ён зьдзелый па-свойму.* Арцёмаўка Міласл.

АТРАІЦЬ, *дзеясл.* Адраіць, адгаварыць. *Сусед атраіў мне купляць етыга кыня.* Палуж Краснап.

АТРЕЗЫЦЬ, *дзеясл.* Адрэзаць. *Атрезылі ў больніцы адну руку па локыць, так з цурболкай цяпер і ходзіць.* Старае Сяло Мсцісл. *Атреж мне ськібку хлеба.* Дубеец Касцюк.

АТРЕЗЫНЫЙ, *прым.* Адрэзаны. *Ета калодычка атрезыныя вунь ат тэй алешыны.* Лінь Крыч.

АТРІСАЦЦА, *дзеясл.* Абтрасацца, страсаць з сябе. *Увайшоў ён у сенцы і пычаў атрісацца ат сьнегу, што на ім ліжаў.* Арцёмаўка Міласл.

АТРІСАЦЬ, *дзеясл.* Абтрасаць, страсаць. *Узяў жупан зы выратнік і дывай атрісаць ат пылу.* Арцёмаўка Міласл.

АТРО́ДЫК, -дка, *м.* Патомак, нашчадак. *Атродык пана быў пахож ны свайго прырадзіціля.* Арцёмаўка Міласл.

АТРУ́СКІ, -сык, *мн. л.* Абтрускі, дробнае сена, салома. *Яны наклыдалі сена, а я зыгрібаў кыла вазоў атрускі.* Пацолтава Мсцісл. *Усё сена зьелі, толькі адны атрускі зысталісь.* Арцёмаўка Міласл.

АТРУ́ТА, -ы, *ж.* Атрута. *Купіў атруты: буду ваўкоў труціць.* Бяседавічы Хоцім. *Атрута ета крепкыя, ат яе зразу памреш.* Арцёмаўка Міласл. *Ну й жыцьцё! Худжы атруты.* Дубеец Касцюк. *Не йначы — атруты хто даў, што ўраз памёрла.* Старае Сяло Мсцісл. *А ў правый руцэ зіляно віно, ‖ А ў левый руцэ — упол с атрутыю, ‖ А сыну даець зіляно віно, ‖ А нявестыццы — той с атрутыю.* З нар. песні, М. Г. 125.

АТРУ́ТЛІВЫЙ, *прым.* Атрутлівы, атрутны. *Сок зь етый травы атрутлівый, калі яго глынуць, дык січас жа памреш.* Бяседавічы Хоцім.

АТРУ́ТНІК, -а, *м.* Атручаны, што сам сябе атруціў. *У етый магілі ляжыць атрутнік; з горя ён хваціў нейкія атруты, знаць, быстрыя водкі, і памёр.* Бяседавічы Хоцім.

АТРУ́ТНІЦА, -ы, *ж.* Атручаная, што сама сябе атруціла. *Ета ж атрутніца пышла: іна труцілась — кісласы нейкія выпіла, алі ні памёрла, толькі ў сяредзіні пыаппалівыла ўсё чыста.* Слаўнае Мсцісл. *Тут пыхывалі атрутніцу.* Бяседавічы Хоцім.

АТРУ́ТНЫЙ, *прым.* Атрутны. *Етыя ягыды атрутны, нільзя іх есьць, ато памреш.* Бяседавічы Хоцім. *Мухамор — гріб атрутный.* Лядзішча Міласл.

АТРУТУШКА, -і, *ж.* Памянш. ад атрута. *Атрутушка ты мыя атрутныя!* Арцёмаўка Міласл.

АТРУ́ЦІНА, -ы, *ж.* Атрута. *Каша была нейкыя атруціна: есьць нільзя было.* Арцёмаўка Міласл.

АТРУЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Атруціцца, прыняць атруты. *Сылыдуном, калі многа зьясі, можна атруціцца.* Слаўнае Мсцісл.

АТРУЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Атруціць, даць атруты. *Хацелі яго атруціць, усыпаўшы серных сьпічык у чай.* Арцёмаўка Міласл. *Нехта нашыга сыбаку атруціў — падох.* Слаўнае Мсцісл.

АТРУЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Атручваць, даваць атруты. *Столькі зывялося мышэй, што страх: нідзе нічога ні пыстаў, усё зьядуць; кошка ні спраўляцца — атручаць нада ці што.* Пацолтава Мсцісл. *А ўмела ж, маці, ‖ Нас атручаці, ‖А ўмей жа, маці,‖ Нас пыхываці.* З нар. песні, М. Г. 125.

АТРУ́ЧЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Атручвацца, труціцца. *Іна хацела атручывыцца; ужу ў чарку атруты ўсыпыла, толькі б выпіць, ды я воврімя зыхваціў.* Бяседавічы Хоцім.

АТРУ́ЧЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Атручваць, труціць. *Купілі атруты, ваўкоў будзем атручывыць, ато рады німа — у дзяреўню заходзяць.* Ліпаўка Хоцім. *Мышэй нада атручывыць.* Хвёдараўка Краснап.

АТРУ́ЧЫНЫЙ, *прым.* Атручаны. *Атручыный памер, і калі яго ўскрылі, то нашлі ў сярэдкі атруту.* Арцёмаўка Хоцім. *Ходзіць, як атручыный — нідзе месца ня знойдзець.* Баханы Чэрык.

АТРЮТУВА́НЫЙ, *прым.* Адратаваны. *Атрютуваный ачыніў вочы і ўвідзіў, хто яго рютуваў і хто дыглідаіць.* Арцёмаўка Міласл.

АТРЮТУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Адратаваць, выратаваць. *Яго можна было атрютуваць; ён дыхаў ящчэ, нада было пыслаць за дохтырым.* Арцёмаўка Міласл.

АТРЯ́ХА, -і, *ж.* Неахайны чалавек. *Такой атряхі я й ні бачыў: на ім гразі на віршок нырасло.* Хвёдараўка Краснап. *Ні люблю, калі чылавек ходзіць атряхый.* Аляксандраўка Краснап.

АТСА́ДЖЫНЫЙ, *прым.* Адсаджаны, пастаўлены ў асобны хлеў на адкорм. *Ён быгатый: у яго троя сьвіней атсаджыных, ды пяцёра так, ды тры каровы дойных.* Шараеўка Чэрык.

АТСАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Адсадзіць, адлучыць. *Нада цялёнка атсадзіць у пуньку, ато ўжу нядзеля, як ён кыла каровы.* Арцёмаўка Міласл. 2. Адбіць. *Як грякнуў яго (а)б зямлю, дык пячонкі атсадзіў.* Хвёдараўка Краснап.

АТСЕ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Адсядзець. *Атседзіў нагу і ступіць ні магу.* Малашкавічы Клім.

АТСЕ́ДЫВА, *прысл.* Адгэтуль, адсюль. *Атседыва ды Краснапольля будзець дваццыць вярстоў.* Палуж Краснап.

АТСЕ́ЖЫНЫЙ, *прым.* Адседжаны. *Ныга атсежыныя: сядзеў нялоўка, на цыпушках, дык атседзіў.* Арцёмаўка Міласл.

АТСЕ́ІЦЦА, *дзеясл.* Адсеяцца, закончыць сяўбу. *Ільля ўжо атсеіўся, у яго ўжо німа чаго сеіць.* Палуж Краснап.

АТСЕ́К, -у, *м.* Адсячэнне. *Даю гылаву ны атсек, што ня зьдзелыіш етыга.* Тур'я Краснап.

АТСЕ́Ч, *дзеясл.* Адсячы, адсекчы. *Нада сабе крюкі ны сані атсеч.* Слаўнае Мсцісл. *Тыпаром сабе палец атсек, дровы рубіўшы.* Селішча Чэрык.

АТСЕ́ЧЫНЫЙ, *прым.* Адсечаны. *У лесі ляжаў дубок атсечыный, ікраз на вось, я ўскінуў ны калёсы ды й прівёз.* Пячоры Касцюк. *Атсечыный сук выляіцца.* Горкі Краснап.

АТСІ́Д, -у, *м.* Адседка, замена штрафу арыштам. *А йдзе я вазьму дваццыць рублёў? Луччы я ў атсід пайду, пысяджу троху!* Пірагова Мсцісл.

АТСІ́ДКА, -і, *ж.* Адседка. *Пашоў Мікола ў атсідку на трі нядзелі зы драку на сходцы.* Пірагова Мсцісл.

АТСІКА́НЬНЯ, -я, *н.* Адсяканне. *Ён сек сук з таго боку, а дзед гаворіць яму: «штойта зы атсіканьня!»* Арцёмаўка Міласл.

АТСІКА́ЦЬ, *дзеясл.* Адсякаць. *Узяў тапор і стаў атсікаць сук.* Арцёмаўка Міласл.

АТСІ́ЛЫ, *прысл.* Адсілы, сама [больш], не больш, як. *Там ныбярецца атсілы дваццыць пудоў.* Палуж Краснап.

АТСКАЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Адскочыць. *Сыбакі кінуліcь ны Мацея, а той як хыркня на іх, тыя й атскачылі.* Пачаны Краснап.

АТСКО́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Адскочыць, адстаць. *Атскочыла кыра на дзеріві.* Хвёдараўка Краснап.

АТСКРЫЛІЦЬ, *дзеясл.* Адскрыляць, адрэзаць вялікі кавалак [скрыль]. *Ён атскрыліў сабе ськіву хлеба, пасыпуў сольлю і стаў есьць.* Арцёмаўка Міласл.

АТСТАНЬНЯ, -я, *н.* Развітанне, ростань. *Ны атстаньня Міхей пацылываўсь са ўсімі і паехыў у сылдаты.* Навасёлкі Мсцісл. *Выпілі мы зь ім на атстаньня.* Горкі Краснап.

АТСТОІВЫЦЬ, *дзеясл.* Адстойваць, упарта абараняць. *Яны будуць атстоівыць сваю зямлю, у іх ні (а)тбяреш.* Арцёмаўка Міласл.

АТСТОІЦЬ, *дзеясл.* Адстаяць, абараніць. *Нада атстоіць сваё лугі, ні даць біспраўна (а)тбіраць.* Арцёмаўка Міласл.

АТСТУПАЦЦА, *дзеясл.* Адступацца, адмаўляцца, адракацца. *Ён будзіць атступацца, скажыць: у вочы ня відзіў.* Арцёмаўка Міласл.

АТСТУПІЦЦА, *дзеясл.* Адступіцца, адыйсці. *Атступісь ты ат яго, чаго ты прістаў, як смыла ікая!* Гаўрыленка Бялынкав.

АТСТУПСТВА, -а, *н.* Адступанне, адмаўленне, адраканне. *Ета толькі атступства, што ён ні кызаў; я сьвідзеціль, што ён кызаў, і ён ні (а)трякецца.* Арцёмаўка Міласл.

АТСУВАЦЬ, *дзеясл.* Адсоўваць. *Угледзіў, што найшло етых гылыварезыў, і дывай атсуваць свой клумык пыдалій.* Арцёмаўка Міласл. *Ні падніміш — нада атсуваць.* Малашкавічы Клім.

АТСУДЗІЦЬ, *дзеясл.* Адсудзіць, адабраць праз суд. *Зямлю яны хочуць атсудзіць сабе і правы на іх стыране.* Арцёмаўка Міласл. *Атсудзіў-такі Ігнат у Сымона пуню.* Прыбярэж Раснян.

АТСУЖЫНЫЙ, *прым.* Адсуджаны, адабраны праз суд. *Етый клін атсужыны(э)й у пана — зы яго трі гады судзілісь.* Арцёмаўка Міласл.

АТСУКАНЫЙ, *прым.* Адсуканы, рассуканы, паслаблены. *Етый чаўнок нітак нешта (а)тсуканый, а быў ён дужа крут.* Арцёмаўка Міласл.

АТСУКАЦЬ, *дзеясл.* Адсукаць [насукаць]. *Атсукала трохі нітык.* Пячоры Касцюк.

АТСУКІВЫЦЬ, *дзеясл.* Рассукваць, раскручваць крута скручаную нітку. *Нада ніткі атсуківыць — дужа круты.* Арцёмаўка Міласл.

АТСУНУЦЬ, *дзеясл.* Адсунуць. *Атсунь ты сваю адзежу туды к сьцяне, тут ніхай людзі сядуць.* Шараеўка Чэрык.

АТСУПОНІВЫЦЬ, *дзеясл.* Рассупоньваць, развязваць у хамуце супоню. *Атсупонівый скарей хамут ды кыня выслыбані, ато ні ўстаніць у аглыблях.* Ліпаўка Хоцім. *Ён ішчэ атсупонівыць хамут ня ўмеіць.* Баханы Чэрык.

АТСУПОНІЦЬ, *дзеясл.* Рассупоніць, развязаць супоню. *Пакуль супоню ў хамуце ні атсупоніш, кыня ня выпрыжыш і хамут ня зьніміш.* Сохана Мсцісл. *Нільзя зьняць хамут с кыня, калі яго ні атсупоніць.* Арцёмаўка Міласл.

АТСЫЛАЦЬ, *дзеясл.* 1. Адсылаць, пасылаць назад таму, хто прыслаў. *Хацеў табе атсылаць грошы, аж ты сам пріехыў, то й добря.* Рэчыца Чэрык. 2. Адпраўляць. *Кылі рады вы нам, прівітайце вы нас, а ні рады нам, атсылайця вы нас.* З нар. песні, М. Г. 105.

АТСЫПАЦЬ, *дзеясл.* 1. Адсыпаць. *Дужа поўна, ні зывяжыш, атсып троху ў другі мяшок.* Бяседавічы Хоцім. 2. Адыйсці, адхлынуць. *Народ атсыпаў, і стала вальнея.* Хвёдараўка Краснап. 3. Высыпаць, выйсці (пра пчол). *Рой атсыпаў, ні спыймалі.* Там жа.

АТСЫЧАЦЬ, *дзеясл.* Адставаць, адаправаць [аб кары на дзераве ўвесну]. *Ны дваре ныстыяшчыя вісна, скора верба будзіць атсычаць, будзім дудкі тады зьнімаць.* Слаўнае Мсцісл.

АТСЬВІСТАЦЬ, *дзеясл.* Высцебаць. *Хацеў атсьвістаць яму хырашэнька, штоб знаў, як бріхаць.* Арцёмаўка Міласл.

АТСЬКЕПЛІВЫЦЬ, дзеясл. Адшчэпліваць, адколваць. *Пычаў атськеплівыць палку ат калоды, дык тыпарішча пыськіпалысь.* Арцёмаўка Міласл.

АТСЬКЕПЛІНЫЙ, *прым.* Адшчэплены. *Атськепліны(э)й сук атляцеў ат калоды ды мне пряма ў нагу.* Лядзішча Міласл.

АТСЬКЁПЫК, -пка, *м.* Адшчэпак, трэска, аскепак. *Міхалка калоў дровы, і атськёпык ат палена прыгнуў яму ў вока.* Арцёмаўка Міласл.

АТСЬКЯПІЦЬ, *дзеясл.* Адшчапіць, адкалоць шчэпку. *Нады атськяпіць лучыну, ато ўжу німа чаго паліць.* Арцёмаўка Міласл.

АТСЬЦЁБЫЦЬ, *дзеясл.* Адсцябаць, высцебаць. *Матка хацела атсьцёбыць хлыпца прутым.* Арцёмаўка Міласл.

АТСЬЦЕНЬ, -і, *ж.* Цень. *Сыбака бег чыріз кладку, увідзіў сваю атсьцень у речкі і дывай бріхаць ны яе.* Арцёмаўка Міласл.

АТСЬЦІБАЦЬ, *дзеясл.* Адсцябаць, высцебаць. *Нады атсьцібаць кыта зы сала.* Арцёмаўка Міласл.

АТСЬЦІГАЦЬ, *дзеясл.* Адсцябаць. *Атсьцібаў кыня сьцяблом.* Слаўнае Мсцісл.

АТСЮЛІКА, *прысл.* Адсюль, адгэтуль. *Атсюліка ды Мыластоўкі дзесіць вярстоў будзя.* Палуж Краснап. *Дывай атсюліка зойдзем к етыму берыгу: тут павінна быць рыба.* Віхраны Мсцісл.

АТСЮЛІЦЬКА, *прысл.* Адсюль. *Атсюліцька ды самыя рякі сіныжаць ымастырскыя была. Выбірайсь ты атсюліцька!* Мсціслаў. *Атсюліцька ды Палужы вярстоў сь пяток будзя.* Палуж Краснап.

АТСЮЛЬ, *прысл.* Адсюль. *Адсюль з Мінску мы саўсім выйжджаім.* Арцёмаўка Міласл.

АТТАІЦЬ, *дзеясл.* Адтаць, растаць. *Ну й мароз, нытапілі так хату, а вокны ня могуць аттаіць.* Бяседавічы Хоцім.

АТТАПІЦЬ, *дзеясл.* Адтапіць, ператапіць [тлушч ці малако]. *Мылако нада ў печкі аттапіць.* Арцёмаўка Міласл.

АТТАПЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Адтапліваць, перапапліваць [тлушч ці малако]. *Мылако сяньні ні нада аттаплівыць, пытаму што ў печкі халодна, ні аттопіцца.* Арцёмаўка Міласл.

АТТАЎХІВЫЦЬ, *дзеясл.* Адштурхваць. *Нільзя яго аттаўхівыць, ён ішчэ маленькій,*

*няхай сядзіць.* Каробчына Мсцісл. *Я пычаў яго локцім аттаўхівыць ат стала.* Арцёмаўка Міласл.

**АТТАЎХНУЦЬ**, *дзеясл.* Адштурхнуць. *Я хацеў аттаўхнуць ат сябе, а ён як учапіўсь, дык хоць ты што хош.* Стары Стан Міласл.

**АТТАЧЫЦЬ**, *дзеясл.* Адтачыць, натачыць. *Затупіўся тапор, нада несьць у кузьню ды аттачыць.* Слаўнае Мсцісл.

**АТТОПЛІВЫЦЬ**, *дзеясл.* Адтопліваць [ператопліваць]. *Сьвіный здор аттопплівыць.* Маластоўка Краснап.

**АТТОПЛІНЫЙ**, *прым.* Адтоплены, ператоплены. *Сала аттопліныя.* Б. Хутары Краснап.

**АТТУЗАЦЬ**, *дзеясл.* Адтузаць, пабіць. *Ну ды і аттузаў жа ён Сымона, ледзь жывога пусьціў.* Галоўчыцы Каліншчына.

**АТТУЛІЦЬКІ**, *прысл.* Адтуль. *Мы аттуліцькі, с-пад Мілыславіч, пріехылі.* Арцёмаўка Міласл.

**АТТУЛЬ**, *прысл.* Адтуль. *Я была тама і аттуль прішла пряма сюды.* Лешчынка Мсцісл. *Што ты там дзелыіш? Жыва аттуль убірайсь.* Бяседавічы Хоцім. *Аттуль ён, аткуль мой дзед.* Арцёмаўка Міласл.

**АТТУСУВАЦЬ**, *дзеясл.* Адтасаваць, пабіць. *Аттусуваў-ткі я яго добря.* Пацолтава Мсцісл. *Нашоў лоўкыя ўручышча, я табе зарыз аттусую.* Хвёдараўка Краснап.

**АТУЛАК**, -лка, *м.* Затулак, месца, дзе можна схавацца, затуліцца. *Ну і дож жа скора дась; хоць бы дзе які атулак знайсьці, хуць ба трошкі схувацца.* Ушакі Чэрык.

**АТУЛІЦЦА**, *дзеясл.* Прытуліцца, затуліцца. *Дож такі сячэць, а коні атулілісь кыла лесу і стыяць.* Дудараўка Міласл.

**АТУМАНІВЫЦЬ**, *дзеясл.* Затуманьваць, абдурваць, ашукваць. *Дос яму атуманівыць нас, нечыга нам голывы задурівыць.* Арцёмаўка Міласл.

**АТУМАНІНЫЙ**, *прым.* Абдураны, абмануты. *Атуманіный іхнюю хітрысьцю, ён падумаў, што і праўда.* Арцёмаўка Міласл.

**АТУМАНІЦЬ**, *дзеясл.* Затуманіць, абдурыць, ашукаць. *Атуманілі мяне цыганы: прыдалі мне дыхавічныга кыня.* Пачаны Краснап.

**АТУСЮДЫХ**, *прысл.* Адусюль, з усіх бакоў. *Пынаехылі атусюдых, з усіх канцоў сьвету.* Арцёмаўка Міласл.

**АТУСЮЛЬ**, *прысл.* Адусюль, з усіх канцоў. *Атусюль зьехылісь людзі, з усіх канцоў сьвету.* Арцёмаўка Міласл.

**АТХАІВЫЦЬ**, *дзеясл.* Адхайваць, адчульваць. *Замерзшыга пычалі атхаівыць.* Арцёмаўка Міласл.

**АТХАІЦЦА**, *дзеясл.* Адхаяцца, ачуліцца, апамятацца. *Доўга ні мог атхаіцца, так ён зымарыўсь уцікаючы.* Арцёмаўка Міласл.

**АТХАІЦЬ**, *дзеясл.* Адхаяць, ачуліць. *Хукыньнім атхаілі пісклёнка.* Палуж Краснап. *Пamiраў ужу саўсім, насілу атхаілі, а цяперь во, глядзі ты, якей вырас!* Лінь Крыч. *Дзеўка залілась, ні змаглі атхаіць.* Палуж Краснап.

**АТХАНЕЙ**, *прысл.* Больш адлегла [не так крута]. *Атханей ат бульбы едзь, ато пырыздаўлівыіш.* Хвёдараўка Краснап.

**АТХАПІЦЬ**, *дзеясл.* Адхапіць, прыняць. *Добря, што руку пасьпеў атхапіць, ато скалечыў бы.* Пацолтава Мсцісл.

**АТХАПЛІВЫЦЬ**, *дзеясл.* Адхопліваць, прымаць хутка. *Калі мы гулялі ў капусту, дык ён чуць пысьпіваў атхаплівыць рукі.* Арцёмаўка Міласл.

**АТХВАЦІЦЬ**, *дзеясл.* Адхваціць, адрэзаць. *Учора у лесі Іван атхваціў сабе паліц, резаўшы дровы.* Добрае Мсцісл.

**АДХІЛЕНЬНЯ**, -я, *н.* Адхіленне. *Тваё атхіленьня ат выкна мне нічога ні пымагло — усё роўна цёмна.* Арцёмаўка Міласл.

**АТХІЛІВЫЦЬ**, *дзеясл.* Адхільваць. *Я стаў рукою яго атхілівыць, штоб ён ні засьціў, а ён зыплакаў.* Арцёмаўка Міласл.

**АТХІЛІЦЬ**, *дзеясл.* Адхіліць. *Атхілі ты трохі хусту, ато дзіцёнку дыхаць нечым.* Асінікі Клім.

**АТХІЛЯЦЬ**, *дзеясл.* Адхіляць. *Мужык пычаў атхіляць палу, каб выцірць быраду.* Арцёмаўка Міласл.

**АТХІНАЦЬ**, *дзеясл.* Адхіляць, адводзіць убок. *Хворэй пычаў атхінаць ныззад гылаву.* Арцёмаўка Міласл. *Атхіні етую ветку, ато нічога ня відна.* Шараеўка Чэрык. *Атхіні ўбок лазінку, ато ня пройдзіш.* Палуж Краснап.

**АТХІНУЦЦА**, *дзеясл.* Адхіліцца, адыйсці ўбок. *Атхініся (а)т сьвету, нічога зы табой ня відно.* Палуж Краснап.

**АТХІНУЦЬ**, *дзеясл.* Адхіліць. *Вакно было завешына, дык нада было атхінуць фіранку, штоб пыглядзець на вуліцу.* Старае Сяло Мсцісл.

**АТХЛАНЬ**, -і, *ж.* Палёгка. *Усе ім пыгыняюць, а кыб даць яму атхлань, дык дзе там.* Ушакі Чэрык.

**АТХЛЕПЫЦЬ**, *дзеясл.* Адхвастаць [адпляскаць], пабіць. *Яго нады атхлёпыць пы руках, дык ня будзіць красьць.* Слаўнае Мсцісл.

**АТХЛОПЫЦЬ**, *дзеясл.* Адпляскаць, адхвастаць, пабіць. *Я такі атхлопыў яму добря.* Хвёдараўка Краснап.

**АТХЛУПНУЦЬ**, *дзеясл.* Адстаць. *Кыра атхлупла ны яблыні — засохніць! Каб табе мазкі атхлуплі!* Хвёдараўка Краснап.

**АТХЛЫМЫЗДАЦЬ**, *дзеясл.* Высцебаць дубцом. *Добря мы яго атхлымыздалі.* Хвёдараўка Краснап.

**АТХЛЯСТЫЦЬ**, *дзеясл.* Адхвастаць, высцебаць, пабіць. *Мамка, мамка! Сцёпка хацеў атхлястыць мяне зы яблыкі.* Ушакі Чэрык.

**АТХОДЗІЦЬ**, *дзеясл.* Абыходзіцца [трацішча, змяншацца]. *Еткій куюган — што яму атходзіць! Што яму, пыцану, атходзіць.* Хвёдараўка Краснап.

**АТХОДЛІВЫЙ**, *прым.* Адыходлівы, не злапомны. *Цімох — чылавек атходлівый: сьпірша заэлуецца, а тады добрый станіць.* Машавая Бялынкав. *Маё серца дужа атходліва — січас быў злый, а ўжо сьмяюся.* Слаўнае Мсцісл. *Атходлівый чалавек — доўга не гневаіцца.* Б. Хутары Краснап.

**АТХОДНЫЙ**, *прым.* Адыходлівы. *Якуб не такей злэй, ён атходный чылавек.* Канічы Касцюк.

**АТХОДЫ**, -аў, *мн. л.* Лекі (найбольш зёлкі, карэнне або вада ад шаптух). *Нада*

*пупытаць, ці ня зная якіх-небудзь атходый.* Хвёдараўка Краснап. *Бабка ета ўсякія атходы знаіць ат усіх хвароб.* Селішча Чэрык.

АТХО́Н, -а, *м.* Адхон, адкос, пакат з боку палатна чыгункі. *Скокнуў з вагону ды й пыкаціўся ўніз пыд атхон.* Старае Сяло Мсцісл.

АТХО́НА, *прысл.* 1. Адхона, пакатa ўніз, спадзіста. *Гару зрылі, дык дарога йдзець атхона, ні тое, што раней.* Слаўнае Мсцісл. *Лес атхона спускаіцца з гары к рэчкі.* Старае Сяло Мсцісл. 2. Убок [у аб'езд]. *Атхона едзь, водыль, каб ні ўчапіўся ў пень.* Хвёдараўка Краснап.

АТХО́НЫЙ, *прым.* Адхонны, пакаты ўніз, спадзісты. *Тут беріг рякі атхоный.* Гібалы Касцюк. *Ета гыра атхона, з возым ехыць ні страшна.* Слаўнае Мсцісл. *Тут беріг атхоны(э)й, можна ўехыць, кыня ныпаіць.* Горкі Краснап. *Спуск з гары ні дужа крутэй — атхоный.* Слаўнае Мсцісл.

АТХРЫСЬЦІЦЦА, *дзеясл.* Адхрысціцца, адчапіцца. *Ат етыга радзімца ні атхрысьціськя, ні атмоліськя.* Палуж Краснап.

АТХУ́КАНЫЙ, *прым.* Адхуканы, адагрэты дыханнем. *Хворый паліц ат холыду зыбалеў, але, атхуканый, хутка пірістаў.* Ушакі Чэрык. *Етый пясклёнык атхуканый, быў замерз.* Судзілавічы Клім.

АТХУ́КІВЫЦЬ, *дзеясл.* Адхукваць, адаграваць дыханнем. *Адхуківай рукі, ато як карчы ат холыду.* Ушакі Чэрык.

АТХУ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Адхукаць, адагрэць дыханнем. *Хукыла, хукыла пісклёнка, ткі атхукыла.* Палуж Краснап.

АТХЫНЫВА́ТЫЙ, *прым.* Адхонаваты. *Гыра троху атхынывата, алі з возым страшна ехыць.* Слаўнае Мсцісл.

АТЦЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Цень. *Ат дубка атценьня падыя.* Старае Сяло Мсцісл. *Сядзь там у атценьня.* Горкі Краснап.

АТЦЕ́РЦЬ, *дзеясл.* Адцерці, памыць. *Мне трэба йшчэ плацьце сваё атцерць ды высушыць.* Васілёўка Хоцім.

АТЦІГА́ЦЬ, *дзеясл.* Адцягаць, адсудзіць, адабраць праз суд. *Сын уздумаў атцігаць усю зямлю ад бацькі.* Ушакі Чэрык.

АТЦЫ́РКАНЫЙ, *прым.* Адліты. *Сьмела стыўляй у печ чыгунок — бегчы ня будзіць, атцырканый.* Ушакі Чэрык.

АТЦЫ́РКІВАЦЬ, *дзеясл.* Адліваць з поўнага [і аддойваць]. *Ныліла поўный чыгун, што ў печ ні змагу ўставіць — нады атцырківаць.* Рэчыца Чэрык.

АТЦЫРКНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Адліць [і аддаіць]. *Пымажы мне атцыркнуць трохі вады з гэтыга цабэрка.* Ушакі Чэрык.

АТЦЬВІ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Адцвісці. *Ні пасьпелі яблыні атцьвісьць, а ўжо завізь ікая.* Прыбярэж Раснян.

АТЦЬВІТА́ЦЬ, *дзеясл.* Адцвітаць. *Пычыла ўжо бульба атцьвітаць.* Ушакі Чэрык.

АТЦЮ́КЫНЫЙ, *прым.* Адсечаны. *Атцюкыный кывалык нызад ні пріставіш.* Слаўнае Мсцісл.

АТЦЮ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Адсячы, адсекчы. *Тапор тупэй — ледзь мяса кывалык атцюкыў.* Старае Сяло Мсцісл.

АТЦЯ́ГНУТЫЙ, *прым.* Адцягнуты. *Мяшок быў атцягнутый ат воза і ліжаў кыла куста, відна хацеў хто-та ўкрасьць.* Слаўнае Мсцісл.

АТЦЯГНУ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Адцягнуць, выцягнуць, зрабіць даўжэйшым. *Атцягнуў троху дышыль у плузі, дык арэць лепі.* Сялец Клім. 2. Адцягнуць, адвалачы ўбок. *Ліжаў ны дарозі чурбак, што праехаць было неяк, дык мы яго ўбок атцягнулі.* Пячоры Касцюк.

АТЦЯ́ПНУТЫЙ, *прым.* Адсечаны або адрэзаны. *У мяне паліц машынай атцяпнутый.* Ушакі Чэрык.

АТЦЯ́ПНУЦЬ, *дзеясл.* Адсячы. *Ён са злосьці хацеў атцяпнуць мне тыпаром нагу.* Ушакі Чэрык.

АТЦЯ́ТЫЙ, *прым.* Адцяты, адсечаны. *У нашыга сыбакі хвост атцятый.* Гібалы Касцюк.

АТЦЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Адцяць, адсячы. *Такей ужо аторва, што гылыву толькі атцяць ды кінуць.* Ліпаўка Хоцім. *Атцяў хлыбазіну і пыгнаў карову.* Пячоры Касцюк. *За што ты хацеў атцяць яму гылаву?* Ушакі Чэрык.

АТЧА́ІЦЬ, *дзеясл.* Дайсці да адчаю, абезнадзеіцца, згубіць надзею. *Атчаіў я саўсім знайці свайго кыня!* Пірагова Мсцісл.

АТЧАПІ́ЦЦА, *дзеясл.* Адчапіцца, пазбавіцца. *Нықысаўсь ны маю гылаву, ніяк ні атчапіцца (а)т яго.* Палуж Краснап. *Во назола! Калі прістаніць, дык ні атчэпісься.* Малашкавічы Клім.

АТЧАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Адчапіць, зняць прычэпленае. *Ці ня хочыш ты атчапіць гэта вядро з вочыпа?* Ушакі Чэрык.

АТЧАРЭ́ПАНЫЙ, *прым.* Адчэрпаны, надчэрпаны з поўнага. *Хто йта браў ваду з цэбра — ён атчарэпаный?* Рэчыца Чэрык. *Вядро ні поўныя — атчарэпына.* Ушакі Чэрык.

АТЧАРЭ́ПАЦЬ, *дзеясл.* Адчэрпаць. *Чаму ня хочыш атчарэпаць вады зь відра — бачыш, разьліваіцца?* Ушакі Чэрык.

АТЧАСТУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Адчаставаць, пачаставаць, у пераносным сэнсе — даць праборку. *Як з лазьні выскачыла Ганна, так бацькі атчаступалі яе.* Ушакі Чэрык.

АТЧУБА́СІЦЬ, *дзеясл.* Адлупцаваць, узяўшы за чуб [надраць за чуб]. *Атчубась ёй, каб доўга помніла.* Горкі Краснап. *За тоя, што позна хадзіла, муж хацеў атчубасіць жонку.* Ушакі Чэрык.

АТЧУБІ́ЦЬ, *дзеясл.* Адчубіць, надраць за чуб. *Ня слухаіш маткі, дык возьмя ды атчубіць.* Ушакі Чэрык.

АТЧУЖА́ЦЦА, *дзеясл.* Аддзяляцца, выдзеліцца з гаспадаркі [і рабіцца чужым]. *Ён ні хацеў атчужацца (а)т сям'і, але жонка ныстыяла.* Ушакі Чэрык.

АТЧУЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Выдзяляць з гаспадаркі. *Бацька ні хацеў атчужаць яго, але старшый ныстыяў.* Ушакі Чэрык.

АТЧУЖО́НЫЙ, *прым.* Аддзелены, выдзелены. *Старшый брат быў атчужоны ат сям'і.* Селішча Чэрык.

АТЧУНЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Ачуняць, аджыць. *Сукам яго як ударіла, дык ён і пірякуліўся і атчуняць ня можыць.* Судзілавічы Клім.

*Ён ніяк ня можыць атчуняць ад удыру пы гылаве.* Ушакі Чэрык.

АТЧУРА́ННЯ, -я, *н.* Адцуранне, выраканне. *Атчураўсь ат яго сын, а як піранесьць бацьку атчурання свайго дзіцяці.* Горкі Краснап.

АТЧУРА́ЦЦА, *дзеясл.* Адцурацца, адчапіцца, адкаснуцца. *Атчурайсь ты ат мяне, чаго ты лезіш!* Восаў Краснап.

АТЧУ́ХІВЫЦЦА, *дзеясл.* Ачухвацца, ачуньваць, папраўляцца ад хваробы. *Цяжка хвареў, але пычаў трохі атчухівыцца.* Ушакі Чэрык.

АТЧУ́ХЫЦЦА, *дзеясл.* Ачухацца, ачуняць, апамятавацца. *Устаў я і ніяк ні магу атчухыцца, гылыва, як цэбар, цяжкыя.* Паланіца Крыч.

АТЧУ́ЦІВЫЦЬ, *дзеясл.* Адчульваць, прыводзіць у свядомасць. *Ужу замерз быў, ік пычалі атчуцівыць, атчуцілі-ткі.* Горкі Краснап. *Замерз быў, пычалі атчуцівыць, насілу атчуцілі.* Там жа.

АТЧУЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Адчуліць, прывесці ў свядомасць. *Ні знаіш, як атчуціць п'янага? Натрі яму добра вушы.* Горкі Краснап.

АТЧЫ́ЗНА, -ы, *ж.* Айчына, бацькаўшчына. *Тут мыя атчызна, атсюль я нікуды ні пайду.* Стары Стан Міласл. *Ён уцёк далёка з свае атчызны.* Ушакі Чэрык.

АТЧЫ́НЕНЫ, *прым.* Адчынены. *Дзьверы атчынены, і ў хаці нікога німа.* Хоцімск. *Хлеў быў атчынены, і каровы ў гарод павылезьлі.* Рэчыца Чэрык.

АТЧЫНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Адчыніць. *Жарка нешта ў хаці—атчыні-ка вакно!* Старае Сяло Мсцісл. *Атчыні заслонку ды пыглядзі ў печ, што там сьмярдзіць, ці ні махнытка там зысталысь.* Восаў Краснап.

АТЧЫНЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Адчыняцца. *Пуня нешта ні атчыняіцца, дзьверы аселі, ці што.* Лядзішча Міласл. *Вакно ні хочыць атчыняцца, намокла.* Ушакі Чэрык.

АТЧЫНЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Адчыняць. *Атчыняй, Міхась, вароты, статык ідзе!* Сохана Мсцісл. *Ён ні хацеў атчыняць свайго куфэрка.* Ушакі Чэрык.

АТЧЫ́РКЫВАЦЬ, *дзеясл.* Падкрэсліваць. *Атчыркывыць нада ўсі тыя словы, што пачынаюцца з буквы «д».* Бяседавічы Хоцім.

АТЧЫРЫ́КАЦЬ, *дзеясл.* Адрэзаць. *Я прасіў хлеба, а ён самыга маліньकыга кывалычка ні хацеў атчырыкаць.* Ушакі Чэрык.

АТЧЫРЫ́КНУЦЬ, *дзеясл.* Адрэзаць. *Схапіў ножніцы і хацеў атчырыкнуць кусок пылытна.* Ушакі Чэрык.

АТЧЫСА́ЦЬ, *дзеясл.* Адчасаць, адлупцаваць. *Трэба табе добря атчысаць за ета.* Хвёдараўка Краснап.

АТЧЫСТЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Адчаставаць, адлупцаваць. *Атчыстываў бацька сына за кыня.* Хвёдараўка Краснап.

АТЧЫ́СЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Адчысціць. *Гразь прыкарэла, што ні атчысьціць.* Палуж Краснап.

АТЧЫХА́ЦЬ, *дзеясл.* Астываць. *Ныпалілі печ, аж чырвоныя была, але пычыла ўжо атчыхаць.* Ушакі Чэрык.

АТЧЭ́ПЛЕНЫЙ, *прым.* Адчэплены, адвязаны. *Конь быў атчэпленый, наверна, хтонібудзь атчапіў яго нарошна.* Гібалы Касцюк. *Відро ў калодзіжы атчэпліна, зычарпнуць вады нечым.* Журбін Бялынкав.

АТЧЭ́ПЛІВАЦЬ, *дзеясл.* Адчэпліваць. *Нада лезьць у шчыт атчэпліваць клетку.* Ушакі Чэрык.

АТЧЭ́ПЛІВЫЦЦА, *дзеясл.* Адчэплівацца. *Сыбачык пынычыплялысь у грыву каню і ні атчэплівыюцца.* Ушакі Чэрык.

АТША́БЫСЫВАЦЬ, *дзеясл.* Адшабасаваць, адсвяткаваць. *Уся сім'я разым хацела атшабысываць гэты вялікі дзень.* Ушакі Чэрык.

АТША́РХНУЦЬ, *дзеясл.* Адшастаць, адарваць. *Лавышнік атшархнуў ат целыя трубкі кывалык мацеріі.* Слаўнае Мсцісл.

АТШАСНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Адхіліцца рэзка, адкаснуцца. *З хворым ніхто ні хацеў быць, адзін брат ні мог атшаснуцца ат яго.* Ушакі Чэрык.

АТША́СНУЦЬ, *дзеясл.* Адхіліць, адвесці. *Атшасьні дзіцёнка ат лампы, ато цямніць мне.* Слаўнае Мсцісл.

АТША́СТЫЦЬ, *дзеясл.* Адшастаць, ададраць. *Ён хацеў з етыя трубкі атшастыць сабе кывалык пылытна.* Ушакі Чэрык.

АТШКО́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Высцебаць, правучыць. *Атшколь машэньніку за ета, штоб помніў.* Хвёдараўка Краснап.

АТШМАТУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Адшматаваць, адрэзаць кавалак, шмат. *Кувалык атшматуя дый дасьць.* Хвёдараўка Краснап.

АТШПА́РІЦЬ, *дзеясл.* Адшпарыць, адлупцаваць. *Я цябе атшпарю за ета, глядзі ты ў мяне!* Хвёдараўка Краснап.

АТШТУРХА́ЦЬ, *дзеясл.* Адштурхваць. *Ні (а)тштурхай яго, ніхай пыстаіць, пыглядзіць.* Баханы Чэрык. *Сыбака ласьціўся, і нельга яго было атштурхаць.* Ушакі Чэрык.

АТШТУРХНУ́ТЫЙ, *прым.* Адштурхнуты. *Дзіцёнык, атштурхнутый маткай, зыплакыў.* Ушакі Чэрык.

АТШТУРХНУЦЬ, *дзеясл.* Адштурхнуць. *Атштурхні яго ат сябе, ніхай ня лезя.* Б. Хутары Краснап.

АТШЧАПЕ́НІЦ, -нца, *м.* Адшчапенец, бязбожнік. *Бацькі ведылі, што ён быў атшчапеніц — ні маліўся богу ніколі.* Ушакі Чэрык. *Ён нейкій атшчапеніц: ат сям'і і ад людзей бяжыць, ні да каго не юціцца.* Гібалы Касцюк.

АТШЧАПЕ́НСТВА, -а, *н.* Адшчапенства, адступніцтва. *Ета ж атшчапенства: у царкву ні ходзіць.* Селішча Чэрык. *Такога (а)тшчапенства ніхто ні чыкаў ат яго.* Ушакі Чэрык.

АТШЧАПІ́ЦЦА, *дзеясл.* Адшчапіцца, адчапіцца, адвязацца. *Ліпня хлапец, як смыла, аж ні можна атшчапіцца.* Ушакі Чэрык.

АТШЧАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Адшчапіць, зняць зашчапку. *Эй, зышчапіўсь адзін у хаці; атшчапі-ка крючок, ато дзьверы ўзлымаім.* Палуж Краснап.

АТШЧЫ́ҚІВАЦЬ, *дзеясл.* Адшчыпваць, адрываць. *Іна нырвала васількоў і пычала атшчыківаць ім галоўкі.* Ушакі Чэрык.

АТШЧЫКНУТЫЙ, *прым.* Адшчыпнуты. *У цыбулі вяръхі атшчыкнутыя, куры ета пыатшчыпалі, ці што!* Рэчыца Чэрык. *Ета ні (а)трезына, а (а)тшчыкнута.* Ушакі Чэрык.

АТШЫБАХЫЦЬ, *дзеясл.* Хутка зрабіць. *Скора яны атшыбахылі сабе новэй дом.* Б. Хутары Краснап.

АТШЫЛДАКЫЦЬ, *дзеясл.* Адбалбатаць, прамармытаць. *Папы (а)бедню атшылдакылі, адбылдакылі. Атшылдакылі абы-як абедню, ды ўзяліся зы гарэлку.* Нова-Ельня Краснап.

АТШЫЦЦА, *дзеясл.* Адшыцца, скончыць шыць. *Наш кравец скора атшыцца доўжын.* Канічы Касцюк.

АТЫБРАЦЬ, *дзеясл.* 1. Адабраць. *Атыбраў у мяне міліцанер рівальвер мой і ні атдаець.* Бяседавічы Хоцім. *Усё ў мяне атыбралі, нічога німа, нават з хаты выгналі.* Васілёўка Хоцім. 2. Выбраць. *Атбяры з жыта самыга брыжчыку на семя, каб ладныя радзіла.* Слаўнае Мсцісл.

АТЫДРАЦЬ, *дзеясл.* 1. Адарваць. *Атыдрала я яму анучкі, абуўся ён і пашоў.* Хвёдараўка Краснап. 2. Адлупіць, прайсці вялікаму дажджу. *Дождж такей атыдраў, што аж ручаі пыцяклі.* Горкі Краснап.

АТЫЙСТРАНЫ, *прым.* Адвостраны, навостраны. *Нож атыйстраны, як брітва.* Ушакі Чэрык.

АТЫЙСТРІВАЦЬ, *дзеясл.* Вастрыць, рабіць вострым зноў. *Ён выскяпіў тапор, рубаўшы дровы, і пычаў яго атыйстріваць ны тачылі.* Селішча Чэрык.

АТЫЙСТРІЦЦА, *дзеясл.* Навастрыцца [зрабіцца вострым зноў]. *Што ты пыклаў тапор пад зэдлік, штоб ён там атыйстріўсь (жартаўліва)?* Пірагова Мсцісл.

АТЫЙСТРІЦЬ, *дзеясл.* Навастрыць [зрабіць вострым зноў]. *Сярпы атыйстріць нада, скора жаць будзем.* Белы Мох Мсцісл.

АТЫЙСЦІ, *дзеясл.* Адысці. *Даволі табе стыяць прі печы — пыра ўжо атыйці.* Ушакі Чэрык. *Атыйдзі ат лямпы, ато засьціш.* Слаўнае Мсцісл.

АТЫЙЦІСЯ, *дзеясл.* Адысціся. *Хлопчык ні хацеў атыйціся ат маткі ні ны шаг.* Ушакі Чэрык. *Атыйдзіся ат печы, ні замінай тут!* Ліпаўка Хоцім.

АТЫМАЦЬ, *дзеясл.* Аднімаць, адбіраць. *Я ні хачу атымаць торбу ў старца.* Ушакі Чэрык. *Ныкыньнікі етыя толькі работу атымаюць.* Горкі Краснап.

АТЫМКАЦЬ, *дзеясл.* Адмыкаць. *Атымкай дзьверы, ато я зьмерз дужа.* Сутокі Мсцісл. *Ключ зымка ні атымкая.* Палуж Краснап. *Ты ні можыш атымкаць, дай я атамкну.* Б. Хутары Краснап.

АТЫМШЧАЦЦА, *дзеясл.* Адпомшчвацца, помсціцца. *Пыгадзі, я табе атамшчуся, прыпомню калі-небудзь.* Пірагова Мсцісл.

АТЫНІЦЬ, *дзеясл.* Абгарадзіць, абнесці тынам. *Задумалі мы свой сад атыніць, каб ні лазілі пы яблыкі.* Ушакі Чэрык.

АТЫРВАЦЦА, *дзеясл.* Адарвацца. *Вочап атырваўсь.* Хвёдараўка Краснап. *Зáсьціжка ў сьвітцы атырвалысь.* Пячоры Касцюк.

АТЫРВАЦЬ, *дзеясл.* Адарваць. *Атарві там мне кусочык паперы, пісульку напісаць нада.* Добрае Мсцісл.

АТЫХОДЗІЦЬ, *дзеясл.* Адыходзіць. *Садзісь, ато човен атыходзіць ад берыгу.* Канічы Касцюк.

АТЫЧАЦЬ, *дзеясл.* 1. Атачаць, нападаць. *Чэрьві капусту атычаць пачынаюць, рады ні даць.* Палуж Краснап. 2. Вастрыць. *Узяўсь атычаць свой нож, ды й руку парезыў.* Пірагова Мсцісл.

АТ'ЯЖОЖЫНЬНЯ, -я, *н.* Адмаўленне, аднекванне. *Ні цярплю я, брат, твайго ат'яжожыньня, сяньня так, а зайтрі другоя пяеш.* Слаўнае Мсцісл.

АТ'ЯЛІВАЦЬ, *дзеясл.* Ад'язджаць убок, збочваць. *Ат'алівай улева, ато калёсы зачэпюцца.* Слаўнае Мсцісл.

АЎДАКІМ, -а, *м.* Уласнае імя Аўдакім. *Аўдакім сыдраў прыйшчык, і нейкыя скулка прікінулысь.* Палуж Краснап. *Аўдакіму пышчасьціла: добрую жонку ўзяў.* Асінікі Клім.

АЎДОТ, -а, *м. заал.* Удод. *Аўдот сядзіць сабе на дзеріві і стукыіць носым, ета ён, знаць, істріць. Красівый ён, етый аўдот.* Арцёмаўка. Міласл.

АЎДОТКА, -і, *ж.* Дробная рыбка. *Нешта сёньня ня ловіцца аўдотка.* Тур'я Чэрык.

АЎДОЦЬЦЯ, -і, *ж.* Уласнае імя Аўдоцця, Аўдося. *Аўдоцьця з Настай нешта зюкаюць.* Малюшын Краснап. *Аўдоцьця, зачыні карову ў пуню.* Капачы Мсцісл.

АЎДУЛЯ, -і, *ж.* Уласнае імя Аўдоцця. *Аўдуля пытпірізала Пайлюка цясёмкаю.* Дубеец Касцюк. *Аўдуля з Лукутой пашлі зранку ў грыбы.* Кокатава Мсцісл.

АЎСТРЫЯК, -а, *м.* Аўстрыяк, жыхар Аўстрыі. *У нашай вёсцы жывець пленный аўстрыяк.* Міцькаўшчына Мсцісл.

АЎСТЭРЫЯ, -і, *ж.* Заезджы двор, карчма са стадолай. *Раньшы ён аўстэрыю дзіржаў, даход бальшэй з пріежжых быў, а січас ні тоя: тургуя троху, вось і жывець.* Расна.

АЎСЯНІЦА, -ы, *ж. бат.* Трава, аўсянік, аўсюк. *Аўсяніца — трыва, падобныя да 'ўсу, яе любяць каровы.* Пірагова Мсцісл.

АЎСЯНІШЧА, -а, *н.* Аўсянішча, поле, на якім быў авёс. *Ні справілісь зжаць авёс, а ны (а)ўсянішча пынывялі коні.* Слаўнае Мсцісл.

АЎСЯНКА, -і, *ж.* 1. *заал.* Аўсянка, жоўтагрудка. *Аўсянка кладзець пяць яец.* Хвёдараўка Краснап. 2. Аўсяная салома [і аўсяная каша]. *Пылажы ў калёсы аўсянкі німнога.* Палуж Краснап.

АЎСЯНЬНЕ, -я, *н.* Аўсянішча. *У аўсяньні многа травы.* Новыя Капачы Мсцісл.

АЎТОРЫК, -рка, *м.* Аўторак, другі дзень пасля нядзелі. *У аўторык ікраз вып
ыдаіць сьвята, тады я ды цябе пріду.* Слаўнае Мсцісл.

АЎХІМ, -а, *м.* Уласнае імя Аўхім, Яўхім. *Аўхім учоры зыстрялііў зайца.* Гібалы Касцюк.

АЎЦА, -ы, *ж.* Авечка. *Аўца нечыя (а)тбілась ат гурту.* Лешчынка Мсцісл. *Сьвіньня цеста паела, || Аўца муку пызьлізала.* З нар. песні, М. Г. 82.

АЎЧАР, -а, *м.* Пастух, што пасе авечак. *Пашоў аўчар выпускаць авец з загону.* Новыя Капачы Мсцісл.

АЎЧА́РКА, -і, *ж.* Аўчарня, хлеў для авечак. *Дуня, зыгані авец у аўчарку.* Новыя Капачы Мсцісл.

АЎЧА́РЫК, -а, *м.* Аўчарня. *Аўчарык нады апкыныпаціць мохум, ато памерзнуць ігняткі.* Бяседавічы Хоцім. *Авечык зыгналі ў аўчарык.* Машавая Бялынкав.

АЎЧЫ́НА, -ы, *ж.* Аўчына, авечая скура. *Аўчына зь етыга бырына будзець добрыя.* Паланіца Крыч. *Па чом ты прыдаў сваё аўчыны?* Міцькаўшчына Мсцісл.

АЎЧЫ́ННЫЙ, *прым.* Аўчынны, зроблены з аўчын. *Аўчынный тулуп, калі пыпадзець пад дождж, дык нымякнець і пыкырбаціцца, высахшы.* Пірагова Мсцісл.

АЎЧЫ́НЬНІК, -а, *м.* Аўчыннік, майстар, што вырабляе аўчыны. *Нада занесць аўчыны ды аўчыньніка.* Лядзішча Міласл. *Мой дзед аўчыньнік, ён сам добра вырыбляіць аўчыны.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Пынас паехыў к аўчыньніку.* Вярбоўка Раснян.

АХ, *выкл.* Ах. *Ах, якей жа ты зыядлый, аж пычарнеў ат злосьці!* Смолькаўская Буда Бялынкав. *Ах ты, подлыя тварь!* Гібалы Касцюк. *Ах ты, кладычка, ах ты, гібкыя, ‖ Ты ня гніся пыда мной!* З нар. песні, М. Г. 6.

АХАПІ́ЦЦА, *дзеясл.* Ахапіцца [узяцца скарынкаю]. *У печы дужа жарка, хлеб должын ахапіцца зьверху.* Слаўнае Мсцісл.

АХАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Ахапіць. *Зімлямер сяньні павінін ахапіць усё наша поля.* Слаўнае Мсцісл. *Думкі ахапілі гылаву.* Сялец Клім. *Пыжар ахапіў усю дзярэўню.* Слаўнае Мсцісл.

АХА́ПКА, -і, *ж.* Ахапак, бярэмя. *Ныбраў ахапку саломы вялікую — ледзь рукі сышчапіў.* Старае Сяло Мсцісл.

АХА́ПЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Ахопліваць. *Агонь пычаў ахаплівыць усю дзярэўню, а раней гарела адна хата.* Слаўнае Мсцісл.

АХА́ПЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Ахопліваць. *Як пычаў ахапывыць мяне страх — думаў, што прыпаду.* Верамеева Чэрык. *Як стаў пыдхадзіць к кладбішчу, дык пычаў ахапывыць мяне страх.* Слаўнае Мсцісл.

АХА́ПЫК, -пка, *м.* Ахапак, бярэмя. *Прынясі каню ахапык сена!* Слаўнае Мсцісл.

АХА́ПЫЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад ахапак. *Пысьцялі яму ахапычык сена пад бок!* Слаўнае Мсцісл.

АХАЦЕ́ЦЦА, *дзеясл.* Хацецца. *Вочы зьліпаюцца — так ахочыцца спаць.* Палуж Краснап.

АХВІРЫВА́НЬНЯ, -я, *н.* Ахвяра, ахвяраванне. *Зьбіраюць ахвірываньня на біспрізорных дзяцей.* Мсціслаў.

АХВІРЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Ахвяраваць. *Твой дзіцёнык пыздыравеў, дык ты павінна хуць што-нібудзь ахвірываць на церкву.* Старына Мсцісл. *Іна ахвірывала на церкву трубку пылытна.* Слаўнае Мсцісл.

АХВІЦЭ́Р, -а, *м.* Афіцэр. *Вялікыя шышка — халуём быў у ахвіцэра.* Палуж Краснап.

АХВО́ТА, -ы, *ж.* Ахвота. *Ахвота мне клыпаціцца пы цябе.* Прыпечына Касцюк. *Ні крічы! Прыдзе ахвота — сам зраблю.* Старае Сяло Мсцісл. *Ёсьць жа ў цябе ахвота хыхытаць увесь дзень.* Янаўка Мсцісл.

АХВО́ТНА, *прысл.* Ахвотна, з ахвотаю. *Я б ахвотна вам пасобіла жаць, дык ні маю часінычкі.* Слаўнае Мсцісл.

АХВО́ТНІК, -а, *м.* 1. Ахвотнік. *Ахвотнік такей вызваўсь, хто цябе прасіў?* Шараеўка Чэрык. 2. Паляўнічы. *Ахвотнік — што слонка, што вутка — ні адрозьніць.* Парадзіна Мсцісл.

АХВЫРБЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Афарбаваць. *Я сяньні ахвырбывала пряжу.* Забалаць Раснян. *Сёліта крышу ахвырбываць нада.* Мсціслаў.

АХІНА́ЦЦА, *дзеясл.* Захіляцца, закручвацца ў адзежу. *Як пашоў дождж — дывай мы ахінацца, хто чым пупала, а Міколка андраком Зосіным.* Міцькаўшчына. Мсцісл. *Хлапец пычаў ахінацца армяком ад дождж*у. Слаўнае Мсцісл.

АХІНА́ЦЬ, *дзеясл.* Захіляць, прыкрываць. *Бацька пычаў ахінаць дочку палою шубкі ат холыду.* Слаўнае Мсцісл.

АХІНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Захінуцца, захіліцца. *Тыкая галота, што й ахінуцца німа чым.* Ліпаўка Хоцім. *Ахінісь хоць хусткай — халодна нешта.* Старае Сяло Мсцісл.

АХІНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Захінуць, захіліць. *Ахінула дзіцёнка палою, ён і заснуў.* Гаўрыленка Бялынкав. *Ахіні яго чым, ато ён дрыжыць увесь — зьмерз.* Рудня Клім.

АХМІСТРЫ́НЬНЯ, -і, *ж.* Ахмістрыня, гаспадыня (жанчына, што распараджалася хатняй гаспадаркай і мела ключы ад запасаў прадуктаў). *Ці ні ахмістрыньняй ты хочыш задзелыцца, што ключы к боку павесіла?* Старына Мсцісл.

АХО́ПЛІНЫЙ, *прым.* Ахоплены. *Хлапец атупеў, ахопліный страхым.* Слаўнае Мсцісл. *Як мы прібеглі, дык ужо ўся хата была ахопліна агнём.* Старына Мсцісл.

АХО́ТА, -ы, *ж.* 1. Ахвота. *Ахота была іці зы яго замуж, цяпер цярпі.* Слаўнае Мсцісл. 2. Паляванне. *Пашлі ны ахоту, але ці застрелюць што — німаведыма.* Пацкава Мсцісл.

АХО́ТНА, *прысл.* Ахвотна. *Ахотна зямлю пыхаў — цяпер хлеб мею.* Слаўнае Мсцісл.

АХО́ТНІК, -а, *м.* Паляўнічы. *Ахотнік з ружжа забіў зайца. Воўк туляіцца ат ахотнікаў пы лясу.* Сохана Мсцісл.

АХО́ЦЬЦЮ, *прысл.* З ахвотаю, з прыемнасцю. *З якою вялікыю ахоцьцю я памыўсь у лазьні!* Слаўнае Мсцісл.

АХРА́Н -а, *м.* Ахова. *Лес у нас пыд надзейным ахраным.* Краснаполле.

АХРА́НА, -ы, *ж.* Варта. *Стыяла ахрана сылдат ныд асуджыным.* Старына Мсцісл.

АХРЫНЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Ахоўвацца. *Каждый сам павінін ахрыняцца ат зла.* Старына Мсцісл.

АХРЫНЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Сцерагчы, ахоўваць. *Чылавек павінін ахрыняць сваё здаровя.* Слаўнае Мсцісл.

АХРЫ́ПНУЦЬ, *дзеясл.* Ахрыпнуць. *Датуль сьцігаўсь, пакуль ахрып.* Кокатава Мсцісл.

АХРЭ́М, -а, *м.* Уласнае імя Ахрэм. *Ахрэм узяў сабе жонку с Палужжа.* Маластоўка Краснап. *Ахрэму ні вязець: ізноў конь здох.* Старына Мсцісл.

АХЫРАНЁНЫЙ, *прым.* Які ахоўваецца. *Етый сад ахыранёный: два сторыжы яго*

*ахырыняюць і ўдзень і ўноччы, таму так і яблыкі цэлы.* Слаўнае Мсцісл.

АХЫРАНІЦЬ, *дзеясл.* Захаваць, усе-рагчы. *Лясьнік павінен так ахыраніць лес, каб кожныя дрэўца было цэла.* Слаўнае Мсцісл.

АХЫРЫНЯЦЬ, *дзеясл.* Ахоўваць, вартаваць. *Бульбы ня зьвезьлі з поля, цяперь нада ўночы іціць ахырыняць, ато пыкрадуць яшчэ.* Пячоры Касцюк.

АЦЕРЬПІЦЦА, *дзеясл.* Абцярпецца [прыцярпецца]. *Пыдажджы-ка, во ацерьпіцца мужык ат горя, пасобіць і табе.* Слаўнае Мсцісл. *Ацерпіўсь я ўжо, січас стала луччы.* Ушакі Чэрык.

АЦЕЦ, аццá, *м.* Бацька, татка. *Мой ацец паехаў у Менск, павёз Тодыру харчы.* Судзілавічы Клім. *Вы, галубы, ды два сызыя, ‖ А ляціце ў маю сторыну, ‖ К аццу, к мамыццы родный.* З нар. песні, М. Г. 33.

АЦІНЬКІ, *прысл.* Дзякуй (дзіцячае слова). *Аціньки, аціньки, дзеткі, вялікыя расьці!* Ушакі Чэрык.

АЦІЦЬ, *дзеясл.* Дзякаваць (дзіцячае слова). *Ета ён аціць цябе: ручкыю мыхая.* Куравічы Мсцісл.

АЦОТ, -у, *м. бат.* Асот, дзядоўнік. *Пуўз прасільлю ацоту многа.* Хвёдараўка Краснап. *Ацот парос вышы прясла.* Вербеж Чэрык.

АЦУРАЦЦА, *дзеясл.* Адрачыся. *Яны ж ад яго ацураліcь, і ні сын, кажуць.* Старае Сяло Мсцісл.

АЦЬВІРАЗЕЦЬ, *дзеясл.* Працверазіцца, зрабіцца цвярозым. *Як пубачыў, што біда, дык і п'янства прыпала — зараз аць-віразеў.* Селішча Чэрык. *Ідзе яму аць-вірязець ат гарелкі, калі ён увыкся ў яе, як кот у сала.* Слаўнае Мсцісл.

АЦЬВІРІЖАЦЬ, *дзеясл.* Цверазіць, працвержацць. *Пыглядзі-ка, як страх пычаў ацьвіріжаць яму мазкі.* Слаўнае Мсцісл.

АЦЬКІ, *прысл.* Дзякуй (дзіцячае слова). *Ацькі, ацькі, дзядзічка, скажы, Марылька!* Міцькаўшчына Мсцісл.

АЦЬЦІНАЦЬ, *дзеясл.* Адцінаць, адпіхаць. *Каб прайці самаму ўперід, да прыдсідаціля к сталу, ён пычаў аццінаць усіх к сьцяне — ну й дуж!* Слаўнае Мсцісл.

АЦЬЦЬВІТАНЬНЯ, -я, *н.* Адцвітанне. *Самыя пыра ацьцьвітаньня — усі краскі ацьцьвітаюць.* Старае Сяло Мсцісл.

АЦЬЦЬВІТАЦЬ, *дзеясл.* Адцвітаць. *Хутка ўжо пычане ацьцьвітаць гречка.* Нашкавічы Мсцісл. *Сады ўжо ацьцьвітаюць.* Б. Хутары Краснап.

АЦЬЦЮЛЯ, *прысл.* Адсюль. *Ацьцюля ды Мыластоўкі пітнаццыць вярстоў. Ацьцюль нікуды ні ўцячэш.* Усцінавічы Краснап.

АЦЬЦЯЦЬ, *дзеясл.* Высцебаць. *Яго нада аццяць добрынька рямнём, дык век будзіць памітывыць.* Слаўнае Мсцісл. *Бацька добря-ткі аццяў яго розгымі, доўга будзіць памітываць.* Старына Мсцісл.

АЦЯЖЭЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Рабіцца больш цяжкім, цяжэць. *Старік пычаў ацяжэлівыць большы і большы: ужо й ног ні пыцягніць.* Слаўнае Мсцісл.

АЦЯЖЫНЫЙ, *прым.* Абцяжараны. *Етый конь ацяжыный, бач, якія ў яго ногі.* Палуж Краснап.

АЧКУРНІК, -а, *м.* Лапцюжнік. *Ета ж вешный ачкурнік.* Бяседавічы Хоцім.

АЧМУРЕЛЫЙ, *прым.* Ачмурэлы, здурнелы, вар'ят. *Пабег па полю, як ачмурелый.* Слаўнае Мсцісл. *Гыняецца за сыбакамі цельный дзень, як ачмурелый.* Журбін Бялынкав. *Ачмурелый мужык гыняіцца за ўсімі пы аколіцы.* Шумячы.

АЧМУРЕНЬНЯ, -я, *н.* Ачмурэнне, зацямненне розуму, адурманьванне. *Во такоя нейкыя ачмуреньня ны мяне найшло — у такім знакомым лесі заблудзіўся.* Слаўнае Мсцісл.

АЧМУРЕЦЬ, *дзеясл.* Ачмурэць, здурнець [адурманіцца]. *Ета нада было ачмурець, гывapiўшы такоя глупства.* Слаўнае Мсцісл. *Ачмуреў чылавек ці што — пабег па полю.* Крывы Лес Шумяц.

АЧНУЦЦА, *дзеясл.* Ачнуцца, прысці да прытомнасці. *Найшло нешта ны мяне, чую — завуць, а ачнуцца ні магу.* Старае Сяло Мсцісл. *Ачнісь ты, чаго засумуваў?* Шумячы.

АЧОСКІ, -сык, *мн. л.* Ачоскі, вычаскі. *Касу чысала ды ачоскі ў агонь кідала.* Бардзіч Краснап. *Іна іішэ ні саўскім хырашо прядзець, дык я ёй даю прасьць ачоскі, пакуль навучыцца.* Бяседавічы Хоцім.

АЧУМЕЦЬ, *дзеясл.* Ачумець, здурнець. *Ачумець можна тут ат етыга клуму.* Гаўрыленка Бялынкав. *Што гэта ты, ачумела, ці што?* Хоцімск.

АЧУНІВЫЦЬ, *дзеясл.* Ачуньваць. *Мой хворый пычаў ачунівыць.* Лешчынка Мсцісл.

АЧУНЯЦЬ, *дзеясл.* Ачуняць, выздаравець. *Думаў, што памру, аж такі пыдняўся, ачуняў.* Пячоры Касцюк. *Ня плач ты зá-гыдзя — ачуняіць, ня бойсь.* Сялец Клім.

АЧУХІВЫЦЦА, *дзеясл.* Працвержацца, прыходзіць да прытомнасці. *Вылілі вядро вады ны гылаву, дык п'яный ачухівыцца пычаў.* Старае Сяло Мсцісл.

АЧУХЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Ачуньваць, папраўляцца. *Пысьля хваробы пычаў ачухывыцца німнога.* Палуж Краснап.

АЧУХЫЦЦА, *дзеясл.* Ачухацца, адпачыць. *На етый рабоці можна так змытацца, што зы два дні ні ачухыісься.* Арцёмаўка Міласл. *Як пылящела з воза, дык чуць ачухылась.* Куркаўшчына Мсцісл.

АЧЧЫКРЫЖЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Адчыкрыжваць, адрэзваць, сказаць востра. *Як пычаў ён аччыкрыжывыць на сходцы ўсё, што толькі ны язык узьлезіць, ажно стыдна дзелылысь.* Слаўнае Мсцісл.

АЧЧЫКРЫЖЫЦЬ, *дзеясл.* Адчыкрыжыць, адрэзаць, востра адказаць. *Ну й аччыкрыжый ты яму, што навет аткызаць ня здолеў.* Прыбярэж Расням.

АЧЧЫНІЦЬ, *дзеясл.* Адчыніць. *Аччыні дзьверцы ў печцы, ніхай ны хату дух ідзе.* Балакеры Мсцісл.

АЧЫЛАВЕЧЫЦЦА, *дзеясл.* Ачалавечыцца, стаць чалавекам. *Глядзі-ка, пьяніца быў, ажаніўся, ну і ачылавечыўся — сусім*

*іншым стаў: ласкывый, дый ня пьець.* Слаўнае Мсцісл.

АЧЫНІ́ЦЦА, *дзеясл.* Апынуцца. *Посытка ляпнула, і мыш ачынілысь, нібы ў вастрозі, запёртыя.* Арцёмаўка Міласл.

АЧЫНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Апынуцца. *Іна павінна ды заўтрішніга дню ачынуцца ўжо ў горыдзі.* Слаўнае Мсцісл. *Гляжу, аж я ачынуўся за трі вярсты.* Бакунавічы Чэрык. *Як даў яму пы харі, дык зразу зы дзьвярьмі ачынуўся.* Шумячы.

АЧЫРНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Ачарніць, абгаварыць. *Брахуньня гэтыя, ачырніла чылавека нізавошта.* Ушакі Чэрык.

АШАЛЕ́ЛЫЙ, *прым.* Ашалелы, здурнелы. *Носісься, як ашалелый, а нічога ні выбігаіш.* Каробчына Мсцісл. *Ашалелыя ты, ці якоя ліха?* Бакунавічы Чэрык.

АШАЛЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Ашалець. *Нашыга Шаріка пыкусаў чужы сыбака, нівядомы. Ён ашалець можа — ні чыпай яго.* Старае Сяло Мсцісл.

АШАЛІВА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Дурэць. *Ды дос табе ашаліваць! Усю хату дыгары ныгамі пыставіў.* Старае Сяло Мсцісл. 2. Ашаляваць, пакрыць шалёўкай. *Хату ашаліваць нада — цяплей будзіць.* Рудня Клім.

АШАЛЫМЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Ашаламляць. *Етым ты мяне зусім ашалымляіш! Вось ня ведаў я етыга!* Старае Сяло Мсцісл.

АШКРЁБЫК, -бка, *м.* Аскробак. *Шкрябый, шкрябый стол, ды ашкрёбкі ні адмахнуў.* Палуж Краснап.

АШКРЁТЫК [аскрётык], -тка, *м.* Адломак, чарапок [асколак]. *Пупаў ашкрётык шрапнелі ў нагу, вось і хрымаіць.* Хвёдараўка Краснап.

АШЛЁПЫК, -пка, *м.* Стаптаны абутак. *Надзела старый андырак, а на ногі нейкія ашлёпкі, аж зь іх ужу пальцы тырчалі, і пышла.* Арцёмаўка Міласл. *Зытыптаў мост сваімі ашлёпкамі, на іх гразі пуўвоза будзець.* Стары Стан Міласл.

АШМЁТЫК, -тка, *м.* Стаптаны лапаць [і бясформенны кавалак гразі]. *Пыдняў ны дваре нейкі ашмётык дый цігаіць.* Журбін Бялынкаў. *Ён жа так сьпіўся, што і ашмётка ні стоіць.* Каробчына Мсцісл. *На ныгах у яго ні лапці, а 'дны ашмёткі.* Сапрынавічы Мсцісл.

АШМУРЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Ачумець, ашалець, здурнець. *Дзеці сяньні ашмурелі штоля, б'юцца, крічаць.* Гусарка Клім. *Ён ужу саўсім ашмурэў, ні знаіць, што дзелыіць: узяў решыта і ідзець зы вадой.* Арцёмаўка Міласл.

АШПА́РІЦЬ, *дзеясл.* Апарыць, абварыць параю. *Пыддываў у лазьні пару, ні пасьпеў адыйці, дык нагу і ашпарыў.* Старае Сяло Мсцісл.

АШТРАХО́ВАНЫЙ, *прым.* Аштрафаваны. *Ці быў ты калі аштрахованый за тоя, што ў суд не зьявіўся?* Пірагова Мсцісл.

АШТРАХУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Аштрафаваць, накласці штраф. *Аштрахувалі мяне аж на дзесяць рублёў — бяры йдзе хочыш!* Пірагова Мсцісл.

АШУКА́ЛЬНІК, -а, *м.* Ашуканец. *Ен жа вядомы ашукальнік, толькі й глядзіць, каб пыдманіць каго.* Старае Сяло Мсцісл.

АШУКА́НСТВА, -а, *н.* Ашуканства, мана. *Як жа ты дапусьціў геткае ашуканства, ідзе твае вочы былі?* Гусарка Клім. *Ашуканства ён зрабіў ні малыя: ні паведаміў яго, што прыдзець.* Пірагова Мсцісл.

АШУКА́НЫЙ, *прым.* Той, каго ашукалі. *Ашуканый Максім зыстаўсь прі дзяльбе: брат усё луччыя сабе зыбраў.* Гусарка Клім.

АШУКА́ЦЦА, *дзеясл.* Ашукацца, памыліцца. *Ашукаўся я, нада было мне адтуля зыхадзіць, тады бы мы яго злавілі.* Пірагова Мсцісл. *Ашукалісь мы, зыплаціўшы так дорыга за етыга кыня,— ён ня стоіць столькі.* Шумячы.

АШУКА́ЦЬ, *дзеясл.* Ашукаць. *Ашукалі мяне кругом: кыня ўвялі, а грошы ні 'ддалі.* Пірагова Мсцісл. *Хвыла ж табе, божынька, || Што я пана ашукаў: || І с панію нычуваў, || Пан конікый дыруваў.* З нар. песні. Меншая Багацькаўка Мсцісл.

АШУ́РКІ, -рак, *мн. л.* Старыя, нягодныя рэчы. *Сыбраў свае ашуркі ды паехыў.* Гусарка Клім. *Адзежа на ім — ашуркі (а)дны.* Шумячы.

АШЧАПЕ́РЫЦЦА, *дзеясл.* Ашчэрыцца. *Чаго ты так ашчаперыўсь ны мяне, што я табе скызаў такоя?* Маластоўка Краснап.

АШЧЫПЯНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Схамянуцца, апамятацца. *Ашчыпянуўсь чылавек, як грошы ўкралі.* Хвёдараўка Краснап.

АШЧЭ́РЫЦЦА, *дзеясл.* Ашчэрыцца, выскаліць зубы. *А тут сыбака мой ашчэрыўсь — ды на выйка.* Старае Сяло Мсцісл.

АШЧЭ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Ашчэрыць, выскаліць зубы. *Ашчэрый гэта воўк зубы — ды ны мяне!* Старае Сяло Мсцісл.

АШЫ́ЙНІК, -а, *м.* Ашыйнік. *Длі свайго сыбакі я купіў дужа добрый ашыйнік.* Мазалава Мсцісл. *Сыбака ашыйнік хочыць скінуць.* Хвёдараўка Краснап.

АШЫЛАМІ́ЦЬ, *дзеясл.* Ашаламіць, аглушыць ударам па галаве. *Етым ты мяне саўсім ашыламіў! Вось ня ведыў.* Старае Сяло Мсцісл.

АШЫЛАМЛЁНЫЙ, *прым.* Ашаломлены, аглушаны. *Як пачуў ета, дык ашыламлёный з гадзіну хадзіў.* Каробчына Мсцісл. *Ён упаў ашыламлёный.* Гусарка Клім.

АШЫЛАПЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Аслупянець, скамянець. *Увайшоў я ў пуню і ашылапеў: ляжыць мой конь і ня дыхыіць.* Арцёмаўка Міласл.

АШЫЛЫМЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Ашаламляць. *Ні ашылымляй ты яго, ні кажы пра ета раптым, здаліка падыйці.* Журбін Бялынкаў.

АЯЁ, *выкл.* Ай-яй (выражае здзіўленне). *Ну й нырабіла! Аяё!* Старае Сяло Мсцісл.

# Б

БА, *выкл.* Ба. Выказвае здзіўленне. *Ба, і ты тут!* Азёры Раснян. *Ба, якей ты стаў!* Галічы Міласл.

БА, *часц.* Бы. *Што ты ніпытпірязыный ходзіш, хуць ба акрайкый якой піріцягнуўсь.* Гаўрыленка Бялынкаў. *А кылі ж ба*

*ў нас ды ні сіріда,* || *А ўлавіла б я віріб'я.* З нар. песні. Сапрынавічы Мсцісл.

БА́БА, -ы, *ж.* 1. Маці [аднаго з] бацькоў. *Двору нікога німа: бацька й маці паехылі ў Амсціслаў, толькі адна баба зысталысь.* Большае Пацкава Мсцісл. *Баба мыя луччы дзедушкі.* Гарадок Міласл. 2. Бабка-павітуха. *Ікая я табе баба, ці я ў цябе дзяцей бабіла?* Галічы Міласл. *Іванька йдзець, бабу вядзець:* || *Баба мыя быгданыя!* || *Хадзі ка мне — пірібаб мне* || *Дзіця маё маленькыя!* З нар. песні, М. Г. 1. 3. Старая жанчына. *Іна баба ўжу старыя: двух мужукоў піряжыла.* Гаўрыленка Бялынкав. *Мылыдая йшчэ жанчына, а выласы сівыя, ік у старый бабы.* Шумячы. 4. Замужняя жанчына. *Ета ні дзеўкі, ета — бабы, толькі ў іх мужукоў нет: з вайны ні пупріходзілі, ні вярнуліcь.* Крывалесы Шумяц. 5. Жанчына наогул. *Жонка яго — харошыя баба і харошый чылавек.* Арцёмаўка Міласл. *Зьвяжысь з бабымі — сам ні рад будзеш.* Фядотава Буда Міласл. 6. Жонка. *Пятрусёва баба вельмі ўжо старыя, шмат старей зы яго.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Браты абодвы ны вайне, а бабы іх самі і пашуць і сеюць.* Арцёмаўка Міласл. 7. Статуй з снегу [снежная баба]. *Мальцы са сьнегу зьляпілі бабу.* Шарэйкі Касцюк. 8. Бабка, яда, прыгатаваная з дранай бульбы. *Хадзі есь бабу — дужа смашныя.* Шыркі Раснян. *Ныдзярі бульбы: бабу печ будзем.* Раздзел Мсцісл. 9. Прылада забіваць палі. *Ік строілі мост, дык бабу пакінулі, во і ляжыць іна тут.* Пячкоўка Мсцісл. 10. *заал.* Птушка-баба, неясыць. *Унь баба пыляцела.* Сапрынавічы Мсцісл.

БАБЁР, -бра, *м.* 1. *заал.* Бабёр. *Раньшы ны нашый речкі бабры вадзіліcь.* Сапрынавічы Мсцісл. *Плача, ік бабёр, сьлёзы бобым коцюцца.* Арцёмаўка Міласл. *Як у быбра сьлёзы льюцца.* Ліпаўка Хоцім. 2. Бабровая шуба. *А ў бабре сваця, а ў бабре,* || *А нясі гарелкі ў вядре!* || *А ў лісых сваця, а ў лісых,* || *А нясі гарелкі ў місых.* З нар. песні, М. Г. 38.

БАБЗДЫ́Р, -а, *м.* Бабнік. *Ты ў нас, Васютка, бальшэй бабздыр, ік я пыгляжу — усё кылы баб трецца.* Добрае Мсцісл.

БА́БІН, *прым.* Бабін. *Бабін унучак* (кажуць пра пестуна бабкі). Кокатава Мсцісл. *Ета бабіна хуста, ні чыпай, ато біда будзя.* Лінь Крыч.

БА́БІНА КУ́РІЦА. Каша на хрэсьбінах; у гэтую кашу госці кладуць грошы, якія забірае сабе бабка-павітуха. *Прігатуўляйце, госьцікі, грошы, січас бабіну куріцу пыдадуць.* Кокатава Мсцісл.

БАБІ́НЫ, -аў, *мн. л.* Вячэра на хрэсьбінах, на якой ядуць кашу «бабіну курыцу». *Як спруўлялі бабіны, дык во ўжу баба вымудряла з кашыю ды с куцьцёю! Во ўжу тургуваліcь зы бабіну куріцу.* Арцёмаўка Міласл.

БА́БІЦЬ, *дзеясл.* Бабіць, прымаць дзіця ў парадзіхі. *Агапа пышла ды Иванывый Матрёны, верна, бабіць пызвалі.* Буда Рагавая Міласл. *У мае ўнучкі дзіця радзілыся, там ужо Сямёніха пышла бабіць.* Слаўнае Мсцісл.

БА́БІЧ, -а, *м.* 1. Жанападобны, падобны да бабы мужчына. *Чаго ты ходзіш, як бабіч?* Брылёўка Краснап. 2. Дзіця, што родзіцца ад жанчыны, якая ўжо была бабкаю-павітухаю. *Хадоска бабый была ў Аксюты, а сыма зыбярэмініла, січас рупіцца, што бабіча прівядзець.* Крывалесы Шумяц. *Мішку пытаму бабічам дражнюць, што яго матка ныраддзіла, ік бабый была.* Пушкова Касцюк.

БА́БКА, -і, *ж.* 1. Памянш. ад баба. *Бабка ты мыя родныя.* Пячоры Касцюк. 2. Сталёвая падстаўка, абушок, на якім клеплюць касу. *Прынясі-ка мне мылаток і бабку, нада ныкліпаць касу.* Бяседавічы Хоцім. *На етый бабкі ні наклепіш, бо йна мякка дужа.* Тур'я Краснап. 3. Яда з дранай бульбы. *Драныя бабка дужа смашныя.* Хвёдараўка Краснап. *Матка сяньні сьпікла бабку.* Фядотава Буда Міласл. 4. Чыгунная балванка для забівання паляў. *Пыдвязьлі бабку, будуць мост дзелыць.* Брылеўка Краснап. 5. 10 снапоў, пастаўленых для сушкі. *Я там пыставіла дзесіць бабык.* Шыркі Раснян. *Пыстаў снапы ў бабкі.* Пацолтава Мсцісл. 6. Гібала, прылада гнуць дугі або палазы. *Ныладзь ты сваю бабку, нада дугу загнуць — злымаў учоры.* Хвёдараўка Краснап. *Адалжы мне свае бабкі, думаю пылазы зьдзелыць.* Прусіна Касцюк. 7. *заал.* Страказа. *Ны бабку ладна бярецца окунь.* Пушкова Касцюк. 8. *бат.* Трыпутнік. *Да скулкі бабку пріклaдзі, дык скарей нарвець.* Прусіна Касцюк. 9. Карэнны зуб. *У мяне ў році ўсі бабкі павыпылі, асталіcь толькі пярэднія ды клычкі.* Слаўнае Мсцісл.

БА́БНІК, -а, *м.* Бабнік, залётнік, чалавек, што любіць цягацца за бабамі. *Ён жа такей бабнік, за дзеўкымі дык работыць некылі.* Арцёмаўка Міласл.

БАБО́ЎНІК, -а, *м.* 1. *бат.* Бабок, трыліснік, бабоўнік балотны, балотная расліна. *Сушыный бабоўнік топяць у печы ў цугунох і потым п'юць ат праcтуды.* Пірагова Мсцісл. *Насушы бабоўніку і дывай яму піць.* Хвёдараўка Краснап. *Сухоты ў яго; ужу і бабоўнік п'е і чаго ня дзелыць — нішто ні пумыгаіць!* Арцёмаўка Міласл. *Ны балоці бабоўнік ужу зацьвіў.* Палуж Краснап. 2. Сцябло бобу. *Але ў вас большэй бабоўнік, наверна, і боб ладный быў.* Тупічын Мсцісл.

БА́БСКІЙ, *прым.* Жаночы, прыналежны жанчыне, бабе. *Бабскій розум маіш.* Бакунавічы Чэрык. *Чаго ета ты нешта бабскыю кохту ныпрянуў?* Прусіна Касцюк. *Слухый ты бабскіх плётык!* Арцёмаўка Міласл.

БА́БСКІЙ КЛЯТБЁН. *бат.* Грыб на асіне. *Глядзі, якей бальшэй бабскій клятбён вырас ны асіне.* Арцёмаўка Міласл.

БА́БСКІЙ СА́ЖЫНЬ. Мера даўжыні на размах рук. *Пычыла меріць бабскім сажнім.* Брылёўка Краснап.

БА́БСКЫЯ КЛІТБА́. Бабскі клятбён, грыб на асіне. *Вунь расьцець бабскыя клітба.* Хвёдараўка Краснап.

БА́БСТВА, -а, *н. зборн.* Бабы. *Як толькі бабства сыйшлося, так і зыгыманілі.* Добрае Мсцісл.

БАБУ́СІЧКА, -і, *ж.* ласк. Бабка, баба. *Бабусічка, сядзі ты ўжо, я табе пыдам, сядзі!* Селішча Чэрык. *А й дам табе, ды*

*бабусічка,* || *А квартоўку кынапель:* || *Кладзі маё а дзіцятычка* || *У новінькій калыбель.* З нар. песні, М. Г. 4.

БАБУ́СЯ, -і, *ж.* Бабуся, бабуля. *Есьць у мяне бабуся мыя родныя, іна мяне жалеіць. Бабуся, ідзём двору!* Арцёмаўка Міласл. *Есьць у мяне, бабуся,* || *Бочычка віна,* || *Ня гневыйся, бабусічка,* || *Што йна ня пыйна.* З нар. песні, М. Г. 2.

БАБУ́Х, *выкл.* Бух. *Ён стыяў ны бірягу, пысьлізнуў ды — бабух у ряку!* Бобрыкі Мсцісл.

БАБУ́ХА, -і, *ж.* Старая жанчына, баба; някемлівы чалавек. *Эт, старыя бабуха!* Пушкова Касцюк.

БАБУ́ХНУЦЬ, *дзеясл.* Бухнуць, упасці. *Ік бабухнуў у ваду з гылавою, чуць ні заліўсь.* Куравічы Мсцісл.

БАБУШКІ, -шак, *мн. л.* Галкі з цеста. *Ныкычай бабушык — зварім клёцкі.* Слаўнае Мсцісл.

БАБЧЫ́ХА, -і, *ж.* 1. Бабка-знахарка, што лечыць зёлкамі. *Бабчыха ета ўжу дужа стара і ўсі сваі зыгаворі забыла, яе ўжу ніхто ні завець к сабе.* Арцёмаўка Міласл. 2. Адзінокая беззямельная жанчына, што жыве ў чужых людзей. *Кызалі, ў етый бабчыхі нейдзі дычка ёсьць — ніхай ба іна ехыла к дачке.* Лядзішча Міласл.

БА́БЧЫЦЦА, *дзеясл.* 1. Зморшчвацца, пакрывацца маршчынамі. *У яго ўжу твар пачынаець бабчыцца, наверна, ён стары?* Касцюковічы. *Іна ўжу стара, знаць, у яе ліцо ўжу бабчыцца.* Арцёмаўка Міласл. 2. Скручвацца ў вузлы. *Ніткі дужа круты, аж бабчуцца.* Там жа.

БАБЫ́ЛЬ, -я, *м.* Бабыль, беззямельны, адзінокі чалавек. *Раней прыдаў ўсё, думаў жыць у горыдзі, а цяпер вярнуўсь нызад голым бабылём.* Слаўнае Мсцісл.

БАБЫ́ЛЬКА, -і, *ж.* Бабылка, адзінокая, беззямельная жанчына, часта мае толькі хату. *У Мар'і-бабылькі зьбіраіцца вічарінка — скымарох будзіць.* Міцькаўшчына Мсцісл.

БАБЫ́РКА, -і, *ж.* Рыба. *Сяньні ніводный плотычкі ні злавіў, усё толькі гылаўні ды бабыркі пупыдаюцца.* Пячкоўка Мсцісл.

БА́БЫЧКА, -і, *ж.* Бабачка. *У яго малінькія жонка, а тыкая бабычка круцінькая.* Арцёмаўка Міласл.

БАВА, -ы, *ж.* Доўгая гутарка. *Етыя бабы ік зывядуць баву, дык на цельный дзень.* Белы Мох Мсцісл.

БА́ВІЦЦА, *дзеясл.* 1. Бавіцца, марудзіць, затрымоўвацца. *Ік пойдзіш ты, дык дужа любіш бавіцца, ніяк цябе ні дажджэсься.* Слаўнае Мсцісл. *Я там бавіцца ня буду, я скора, штоп і сюды пасьпець.* Арцёмаўка Міласл. *Мы скора вернемся: бавіцца нам не за чым.* Дубеец Касцюк. *Бяжы скарей вады ды ні баўсь, прінясі скарей.* Сохана Мсцісл. 2. Забаўляцца. *Нызбіралі дзеці каменьчыкаў ды бавюцца сабе.* Бель Бялынкав. *Бальшэй такей маліц, а зь дзецьмі бавісься.* Азёры Расняя.

БА́ГМА, -ы, *ж.* Багна. *Залез у багму, што й ня вылізіш.* Крычаў.

БА́ГНА, -ы, *ж.* Багна, топкае балота, гразь. *Конь зытапіўсь у багні — ледві вы-цягнулі.* Гібалы Касцюк. *Ціріз ету багну ні пройдзеш.* Ляхі Чэрык. *Тут тыкая багна, што я баюсь кыня зытапіць.* Арцёмаўка Міласл. *Ну й надвор'я стала, проста багна, нельга выйці нікуды.* Добрае Мсцісл.

БАГО́Р, багра́, *м.* Жалезны крук на доўгай жэрдцы для расцягвання бярвенняў у часе пажару. *Бярвеньні сьцігалі багром.* Хвёдараўка Краснап. *Зычапілі за сцяну, і багор злымаўсь.* Мсціслаў.

БАГО́ЎНЯ, -і, *ж.* Куток, заняты абразамі. *Садзісь, сват, тут пыд багоўній.* Палуж Краснап.

БАГРЕ́ЦЦА, *дзеясл.* Абагрэцца, сагрэцца ад холаду. *Дазвольця кыла 'гню 'багрецца троху.* Бяседавічы Хоцім. *Сідай кыла 'гню, хоць 'багрейсь троху.* Прусіна Касцюк.

БАГУ́Н, -у, *м. бат.* Багун, багульнік балотны. *Багун расьцець ны балоці і маіць сільный і шкодный длі чылавека пах: ат яго гылыва баліць.* Пірагова Мсцісл. *Треба будзець нырваць багуну.* Касцюковічы.

БАДЗЮЛЬКА, -і, *ж.* Бадзюлька, калючка, востры шып у расліны — агрэсту, ружы. *Хацеў я нырваць агрісту, дык толькі рукі пыкалоў аб бадзюлькі, а агрісту тога ўпацёмкых і ні нымацаў.* Арцёмаўка Міласл.

БАДРЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Прыбірацца, аглядваць сябе. *Дзяўчына бадрыцца пірід люстэркай.* Усцінавічы Краснап.

БАЗЫ́КЫННЯ, -я, *н.* [Базыканне], марнаслоўе, пустая гаворка не да ладу. *Ну, к чаму тваё гета базыкыньне, ты лепій пра дзела гыварі.* Ушакі Чэрык.

БАЗЫ́КЫЦЬ, *дзеясл.* [Базыкаць], гаварыць абы што. *Кінь ты базыкыць, што ты тут базыкыіш?* Ляхі Чэрык. *Вот базыкыіць, што сьліна к губе прінясець.* Ліпаўка Хоцім.

БАЗЫ́ЛЬ, -я, *м.* Уласн. імя Базыль, Васіль. *Базыль Міхасёў із горыду пріехыў.* Сялец Клім.

БА́ІЦЬ, *дзеясл.* Баяць, казаць байкі. *Навучы мяне добрыя басьні баіць.* Касцюковічы. *Сыбяре дзед лі сябе дзяцей ды баіць ім байкі.* Гібалы Касцюк.

БАЙБУС, -а, *м.* Байбус, вялікі, нехлямяжы чалавек. *Такей байбус, а ўсё яшчэ дзяцініцца.* Лешчынка Мсцісл. *Еткій байбус, пасьці пад неба вырас, а работыць ня ўмеіць.* Слаўнае Мсцісл.

БА́ЙКА, -і, *ж.* 1. Байка. *Рыгор, рыскажы-ка ты якую-небудзь байку — ты масьцер байкі баіць.* Добрае Мсцісл. 2. Саматканая (порт з сукном) спадніца. *Ганна выткала сабе на лета байку.* Белы Камень Бялынкав. *Дзяўчына ткала байку.* Дзеражна Касцюк. *Байка — сымытканыя юпка, уснова альніная, а пытканыя сукном хварбованым.* Касцюковічы.

БАЙСТРУ́К, -а, *м.* Дзіця, народжанае дзяўчынаю да афіцыйнага замужства. *Ета ж байстрюк — у яго бацькі німа!* Касцюковічы. *Байстрюк ты, байстрюк, цябе ж матка ў дзеўкых арадзіла, у цябе ж бацькі німа.* Слаўнае Мсцісл. *Харошыя дзеўка і рыбыцяшчыя, ды толькі з байстрюком брацць ніхто ня хочыць.* Мсціслаў. *Яе цяпер замуж ніхто браць ня хочыць, што*

*іна ў дзеўках байстрюка радзіла.* Судзілавічы Клім.

БАКОНКА, -і, *ж.* 1. Балонка, шыба ў вакне. *Баконка ў вакне разьбілыся.* Палуж Краснап. 2. Аканіца. *Ідзі зачыні баконкі, ато буря вокны паб'ецъ.* Галоўчыцы Клім.

БАКОЎКА, -і, *ж.* 1. Бакавы пакойчык у хаце. *У пярэдній хаці мы абедыім, а ў бакоўкі сьпім.* Слаўнае Мсцісл. 2. Варыўенька ў сенцах. *Мылако стаіць у бакоўкі ны паліцы.* Гібалы Касцюк. 3. Пячурка збоку чалеснікаў ў печы з палічкай для гаршкоў. *Пыстаў скыўраду с салым у бакоўку.* Касцюковічы.

БАЛДЗІЦЬ, *дзеясл.* Казаць, расказваць [балбатаць]. *Нешта сяньня балдзілі, толькі я нічога ні пыняў.* Кокатава Мсцісл.

БАЛДЭС, -а, *м.* 1. Дурны, нерастропны чалавек. *Хуць табе і дваццыць гадоў, а ты балдэс — нічога ні сыбрыжаіш.* Слаўнае Мсцісл. *Ну й балдэс жа ты!* Касцюковічы. 2. Вісус, гультай. *Во балдэс, ходзіць пы дзяреўні ды семя лузгыіць, нічога ня дзелыіць, а за дзеўкымі — дык махым ні 'тмыхаць.* Арцёмаўка Міласл.

БАЛЕСЬЦЬ, -і, *ж.* Хвароба. *Цяпер, кажуць, балесьць нейкыя пышла пы людзях — халера, ці што.* Слаўнае Мсцісл.

БАЛЕЦЬ, *дзеясл.* Балець. *Што ў цябе, рука баліць, што зывізаў?* Касцюковічы. *Так у мяне сяньня гылыва баліць, проста рызрываіцца.* Пірагова Мсцісл. *А ў чацьвер я с пахмельлійка ліжала,|| А ў пятніцу буйна голыва балела.* З нар. песні. Дзеражна Касцюк.

БАЛОБАН, -а, *м.* Балабон, той, хто голасна гаворыць. *Балобын наш як зыгаворя, дык як у званы звонюць.* Хвёдараўка Краснап.

БАЛОНІНА, -ы, *ж.* Абалонь, верхнія слаі драўніны. *Алупілі балоніну 'т сасны на лучыну.* Брылёўка Краснап. *Ні бяры самый балоніны — гарець ні будзіць.* Пачапы Краснап. *На'тбівай балоніны ды нудзярі лучыны. У етым бруску балонь сінія.* Хвёдараўка Краснап.

БАЛОНІСТЫЙ, *прым.* Абалоністы, з вялікаю абалонню. *Ні дыўгавешныі ў цябе вокны: балоністыя — скора агнiюць.* Іванаўка Хоцім.

БАЛОНКА, -і, *ж.* 1. Аконнае шкло, шыба. *Вакно було атчыніна, дык веціp балонку разьбіў.* Арцёмаўка Міласл. *Балонка з рамы выпыла, але ні разьбілыся, нейк прі сьцяне і стаіць.* Бялішчына Мсцісл. *У новый хаці вокны вялікія: на шэсць балонык.* Канава І Хоцім. 2. Кратачка [квадрацік]. *Буду ў балонкі ткаць.* Хвёдараўка Краснап. *Марыля сабе сыян пашыла ў балонкі.* Іванаўка Хоцім. *Кабат у балонкі вытканый.* Крычаў. *Купіла сабе мульту ў балонкі.* Мсціслаў.

БАЛОНЬ, -і, *ж.* Абалонь. *Ікая тоўстыя ў дубі балонь!* Хвёдараўка Краснап. *У етый сасьне балоні ны паліц — адзін стрыжынь.* Іванаўка Хоцім.

БАЛОНЬЯ, -і, ж. Сметнік, месца, куды звозяць усякае смецце. *Пойдзем ны балоньі, можа знойдзем крыху бляхі.* Тур'я Чэрык.

БАЛОТА, -а, *н.* Балота. *Ціріз балота ні праедзім, тута абыход ёсьць.* Палуж Краснап. *Нехта зыпаліў у балоці зём.* Куляшоўка Клім. *Столькі сёліта іржы ны балоце, што проста біда.* Пірагова Мсцісл. *Асіна балота красіла — ||Мар'ічка Грішычку прасіла: || Вязі мяне, Грішычка, ідзе ўзяў,|| Каб мой вяночык тут ні зьвяў.* З нар. песні, М. Г. 35.

БАЛОТЛІВЫЙ, *прым.* Балоцісты. *Там містá ўсё балотлівыі—усюдых балота, дрігва.* Хвёдараўка Краснап.

БАЛОЦІСТАСЬЦЬ, -і, *ж.* Балоцістасць, забалочанасць. *Вясною там бываець тыкая балоцістасьць, што нільзя дажа чылавеку прайіціць, а ня то што с канём ехаць.* Бясєдавічы Хоцім.

БАЛОЦІСТЫЙ, *прым.* Балоцісты, гразкі. *Ета места балоціста, так што тут ні праедзеш: можыць конь утапіцца.* Бяседавічы Хоцім.

БАЛУВЫЦЦА, *дзеясл.* Балавацца, дурэць, гарэзаваць. *Пірістаньця, дзеці, балувыцца; ні балуйцісь, кажу вам!* Гусарка Клім.

БАЛУЎНІК, -а, *м.* Балаўнік, гарэзнік. *Ён балуўнік бальшэй і нíслухмяный: надысь узяў аброць і зьнёс, некуды кінуў, пугу тожа некуды сьпёр.* Арцёмаўка Міласл.

БАЛУЎНЫЙ, *прым.* Балаўны, гарэзлівы. *Дужа балуўныя дзеці; бегуюць, скачуць, скачуць пы лаўкых, стылах — сьвет пірівырачывыюць.* Арцёмаўка Міласл.

БАЛУЎСТВА, -а, *н.* Балаўство. *Ета балуўства (а)дно: работы ні глядзіць, пьець, гуляіць — ня будзіць зь яго хызяіна.* Арцёмаўка Міласл.

БАЛУЎНЯ, -я, *н.* Балаўство. *Етыя балуўня ды дыбра ні дывядзець; глядзі ні мыхай кылы хаты шубеньнім — у вакно пупадзеш.* Слаўнае Мсцісл.

БАЛЬКА, -і, *ж.* Бэлька. *Балька дзяржыць хрест і крышу.* Пухнава Раснян. *Сгніла ў пуні балька, нада новую зыцягвыць.* Горкі Краснап. *У пуню пылажылі яловую бальку.* Машавая Бялынкав.

БАЛЬШУН, -а, *м.* Вялікі, дарослы. *Бальшун ты, на што ты малых забіджаіш?* Хвёдараўка Краснап.

БАЛЬШУХА, -і, *ж.* Вялікая, дарослая, большая за другіх. *Іна ў нас бальшуха, меншыі пыд ей дыглядым растуць.* Сапрынавічы Мсцісл.

БАЛЬШУШЧЫЙ, *прым.* Вялізны. *Сын надзеў шырокій бацькін тулуп, шапку і бальшушчыя валёнкі ў дарогу.* Слаўнае Мсцісл.

БАЛЬШЫЙ, *прым.* Вялікі. *Чылавек вязець бальшый воз сена. У дзеда бальшый кій.* Сохана Мсцісл. *Дарога надта кепскыя: выбоіны бальшыя — ледзь пріехылі.* Пухнава Раснян. *Сад бальшэй агырадзіць чаго стоіць.* Мсціслаў. *Летысь яшчэ шчанёнкым быў, а сёліта ўжу якей бальшэй вырыс.* Арцёмаўка Міласл.

БАЛЮЧЫЙ, *прым.* Балючы, што прычыняе боль. *У мяне скулка тут, ды тыкая балючыя, што датронуцца нільзя.* Арцёмаўка Міласл.

БАЛЯ, -і, *ж.* Абаранак (дзіцячае слова). *Ціха, ні плач: бацька балю з бызару прівязець.* Дзеражна Касцюк. *Німа балі, каток ухваціў.* Гусарка Клім.

БАМБІЗА, -ы, *м.* і *ж.* 1. Гультай, абібок. *Чаго ты ходзіш, бамбіза ты, чаму ты за дзела ні бяресься?* Брылёўка Краснап. 2. Някемны, бесталковы чалавек. *Ну й бамбіза ты, етыга простыга дзела ні пынімаіш.* Касцюковічы.

БАНДЗІТ, -а, *м.* Бандыт. *Кажуць, што яго сын бандзіт: з шайкыю грабіць і людзей зыбіваіць.* Арцёмаўка Міласл.

БАНДЗІСТ, -а, *м.* Бандыт. *Аблупежылі Хаіма бандзісты да ніткі.* Дзіснакіта Мсцісл. *Бандзісты етыя нікога ні быяцца.* Хвёдараўка Краснап.

БАНКЕ́Т, -а і -у, *м.* 1. Папойка на другі дзень пасля вяселля. *Ны банкеці ў іх было чылавек дваццыць.* Вітрунь Касцюк. *У суседа быў банкет; было больш гасьцей як у другога ны вясельлі.* Папоўшчына Мсцісл. 2. Вечарынка з музыкай. *Зызвалі скымароха і справілі сабе банкет.* Іванаўка Хоцім. *Нада зьдзелыць банкет, штоб усім чырцям тошна стала.* Канічы Касцюк.

БАНКЕ́ТАВАЦЬ, *дзеясл.* Баляваць. *Ік пычалі банкетывыць, дык трэці дзень банкетывыюць.* Хутары Краснап.

БАНКРУ́Т, -а, *м.* Банкрут, чалавек, што страціў усю маёмасць. *Банкрут — правёў быка на індыка, і сам па сьвету валочыцца.* Хвёдараўка Краснап. *Наш лавышнік зьдзелыўсь ныстыяшчым банкрутым: нідачоту, кызалі, пяцьсот рублёў, хто ж яго цяпер кініць тургуваць.* Слаўнае Мсцісл.

БА́ННЫЙ, *прым.* Банны, прыналежны да бані, лазні. *Атліпні ты, прістаў, як банный ліст!* Пірагова Мсцісл. *У вас у хаці банный дух.* Прыбярэж Раснян.

БА́НЬКА, -і, *ж.* 1. Банька, хамуцік, якім прымацоўваецца шыйка касы да касся. *Згубілась мыя банька, і цяпер німа як касы прімайстрываць к касьсю.* Ушакі Чэрык. *Да новыя касы нада і новыю баньку купіць.* Бязводзічы Мсцісл. 2. Жалезнае кольца. *Пычаму ў ету дугу ні ўвінцілі баньку?* Бяседавічы Хоцім. *Вазьмі ўвінці ў дугу баньку, ато не зы шта пывады прівізаць.* Пячары Касцюк.

БА́НЯ, -і, *ж.* Лазня. *Нагу ашпарій у бані, пару пыддываўшы.* Старае Сяло Мсцісл.

БАРАНІ́ЦЦА, *дзеясл.* Абараніцца. *Авунь пашлі, каб на вас ліха! Біз палкі ат іх ні 'баронісьсі.* Ушакі Чэрык.

БАРДЖЭ́Й, *прысл.* Барзджэй, хутчэй, скарэй. *Ідзі, толькі барджэй, ні барысь там!* Пячары Касцюк. *Барджэй бяжы ды хаты і пызаві мне бацьку.* Слаўнае Мсцісл. *Барджэй ты варочайсі: туча находзіць, а сена ня гребіна.* Гібалы Касцюк.

БАРЕ́Ц, барца́, *м.* Барэц. *Яго ніхто ні пáборіць — ён сільный барец.* Слаўнае Мсцісл.

БАРІ́ЛЦА, -а, *н.* Барылка, маленькая бочачка, у якой бяруць ваду на поле. *Барілца з вадой стаіць пад возым, ідзі напісь.* Іванаўка Хоцім.

БА́РІНЬ, -я, *м.* Пан. *Бач, якей барінь, і рук пумарацъ баіцца.* Журбін Бялынкав. *Ён баріня ісь сябе корчыць.* Пухнава Раснян.

БА́РІНЯ, -і, *ж.* Пані. *А ў баріні чорна сьвітка, любіць баріню Мікітка.* Прыпеўка. Багацькаўка Мсцісл.

БАРІ́ЦЦА, *дзеясл.* Бавіцца, марудзіць. *Ідзі, ды ні барісь там. Дзей ты баріўся так доўга?* Гібалы Касцюк.

БАРО́Н, -а, *м.* Пан вялікі, недатыка. *Барон ты ў мяне — і ні зычапі!* Брылёўка Краснап.

БАРО́НША, -ы, *ж.* Баранеса, пані вялікая. *Адзела новыя паліто і ходзіць, ік баронша, нос задзіраіць.* Краснаполле.

БАРСУ́К, -а, *м. заал.* Барсук. *Антон сяньні барсука забіў у лесі. Ой, нашоў сяньні барсука — жырный, у кымякох.* Хвёдараўка Краснап.

БАРТЫ́, -оў, *мн. л.* Кляпы, адвароты ў паліто, пінжаку. *Ён прібраўсь: надзеў чорный пінжак і ны барты прікалоў цьвяты.* Арцёмаўка Міласл.

БАРУ́Н, -а, *м.* Барэц. *Барун сь цібе, ні пáборіш дзеўкі.* Высокі Бор Краснап.

БАРЫ́ЛЦА, -а, *н.* Барылца, невялікая бочачка на ваду. *Барылца стаіць з вадой. Зьбегай, дзеткі, ныбярі вады ў барылца.* Іванаўка Хоцім.

БАРЫШЫ́, -оў, *мн. л.* Барыш, выпіўка пасля куплі-продажу. *Кыня купіў, і барышы папілі.* Пячары Касцюк. *Прыдалі карову, дык пашлі барышы піць.* Бязводзічы Мсцісл.

БАС, -а, *м.* 1. Бас, чацвёртая струна ў скрыпцы, самая тоўстая. *Скымарох іграў, пыка бас пырваўсь.* Хурманава Мсцісл. *Бас пырваўсь, і йграць не на чым.* Пухнава Раснян. 2. Пас, шнур у самапрадцы. *Басы нада новыя ў сымыпрядку.* Хвёдараўка Краснап.

БАСЭ́ТЛЯ, -і, *ж.* 1. Басэтля, музычны інструмент. *Во равець, ні раўнуючы, як басэтля Шлёмыва, калі той ны вясельлі граіць.* Ушакі Чэрык. 2. Басота, басяк. *Ён жа ныстыяшчый зьдзелыўся басэтля: усё прапіў, прыгуляў у карты, а цяпер зысталося толькі красьць.* Слаўнае Мсцісл.

БА́ЎКАЦЬ, *дзеясл.* 1. Званіць, біць у звон. *Скажы яму, каб пірістаў баўкыць, ато зы яго звоным нічога ня чутна.* Касцюковічы. 2. Гаварыць, распускаць нядобрыя чуткі. *Баўкыюць людзі пры тваю дачку.* Маластоўка Краснап.

БАЎТУ́Н, -а, *м.* 1. Баўтун, сапсаванае яйка. *Куріца ета, квактуха, вывіла з пітнаццыці яец дзьвінаццыць пісклёнкуў, а трі былі баўтуны.* Арцёмаўка Міласл. 2. Чалавек, у якога галава хістаецца з боку на бок. *Ны вайне яго канфузілі, дык цяпер быўтуном стаў: гылыва ні дзержыцца.* Хвёдараўка Краснап.

БАХ, *выкл.* Бух, бах. *Я йду, а нехта — бах з ружжа, так я й падскочыў.* Пухнава Раснян. *Ішоў, пасьлізнуўсь, ды бах у гразь.* Мсціслаў. *Ня лезь, дзеткі, ны край, ато — бах!* Машавая Бялынкав.

БА́ХНУЦЬ, *дзеясл.* 1. [Бахнуць], стрэліць. *Дай мне раз бахнуць з твайго ружжа.* Калодзецкая Касцюк. *Хадзіў з ружжом і віжу — белка на асіні: я пріцэліўсь, бахнуў у яе, дык іна клубком аб зямлю.* Арцёмаўка Міласл. 2. Упасці. *Бег, бег ды як бахнуў, дак ледзьвя ўстаў.* Гусарка Клім. *Ня бегый, ато бахнеш і нос разаб'еш.* Лінь Крыч.

БАХРАМА́, *ж.* Махры. *Суседка ныцаплівыіць бахрыму ў хустку. Бахрыма 'быр-*

*валысь, нада новую нашыць.* Стары Дзедзін Міласл.

БА́ХУРКА, -і, *ж.* Бахарка, распусніца. *Ці ты ж ні ведаіш гетай бахуркі? Іна ж чэпіцца да кожныга мужчыны.* Ушакі Чэрык.

БА́ХУ(Ы)РСТВА, -а, *н.* Бахарства, распуста. *Ладныя дзеўка была, ды ў баху(ы)рства пусьцілысь.* Іванаўка Хоцім.

БА́ХЫР, -а, *м.* Бахар, распуснік, любоўнік. *Іна апроч мужыка йшчэ бахыра маіць.* Слаўнае Мсцісл.

БА́ХАЦЬ, *дзеясл.* 1. Бухаць, стукаць. *Ік пычанець бахаць палкый пы лавых, дык аж у вушшу зьвініць.* Машавая Бялынкав. *Ну й здорыва бахыіць тваё ружжо.* Калодзецкая Касцюк. 2. Спаць. *Ідзі, дзетка, бахыць, пыра ўжу. Бахыць хочыць, мыя дзетка.* Там жа.

БА́ЦЦА, *прысл.* Напэўна, відаць што. *Бацца ў полі забыла я сваю лыхманіну.* Тур'я Чэрык.

БАЦЬВІ́НЬНЯ, -я, *н.* Бацвінне, буракове лісце. *Налумай-ка бацвіньня, ды кылі й бурачок вырвіцца, дык нічога: нада баршчу зварiць заўтрі.* Арцёмаўка Міласл. *Нылымай ны грідах бацьвіньня, зварім варіва.* Слаўнае Мсцісл. *Нарві бацьвіньня сьвіньням.* Тур'я Чэрык.

БА́ЦЬКА, -і, *м.* Бацька, татка. *Мой бацька — селянін.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Як абвутрыла, паехаў бацька ў лес.* Палуж Краснап. *Якей ён сын — бацькі родныга ні пышкыдывай.* Парадзіна Мсцісл.

БА́ЦЬКА-МА́ЦІ. Бацькі. *Бацькі-маці ні слухыіш, сваволіш.* Калодзецкая Касцюк. *А сьпі доўга,|| Расьці скора,|| Бацьку-маці || Ны пацеху.* З нар. песні. Багацькаўка Мсцісл.

БАЦЬКІ́, -оў, *мн. л.* Бацькі, бацька і маці. *Памерлі мае бацькі, і зысталысь я круглай сіратой на сьвеці.* Ушакі Чэрык. *Мае бацькі далёка (а)дсюль жывуць.* Канічы Касцюк. *Мае бацькі пашлі на ксьціны, мяне адну пакінулі ў дваре.* Слаўнае Мсцісл.

БА́ЦЬКІН, *прым.* Бацькаў. *Надзеў у дарогу шырокій бацькін тулуп, шапку і бальшушчыя бацькіны валёнкі.* Слаўнае Мсцісл.

БАЦЬКЫЎШЧЫНА, -ы, *ж.* 1. Бацькаўшчына, спадчына па бацьку. *Па сьмерці бацькі яму зысталысь уся бацькаўшчына.* Слаўнае Мсцісл. 2. Бацькаўшчына, старана, дзе жылі бацькі і сам радзіўся. *Ідзе твыя бацькыўшчына? — Мыя бацькыўшчына кыла Крычыва.* Касцюковічы. *Жыў, жыў на чужыне, ды ны бацькыўшчыну зыхацелась.* Ушакі Чэрык. *Дзе ні быў, а ны бацькыўшчыну зьвярнуўсь.* Горкі Краснап.

БА́ЦЮХНА, -а, *м.* Бацька, зваротак да бацькі ці старога чалавека. *Што ж ета ты, бацюхна, кыня прыдаеш? Як будзеш жыць біс кыня?* Слаўнае Мсцісл. *Німа бацюхна родныга, некыму пыжалець сірату!* Дудараўка Міласл.

БАЧ, *выкл.* Бач, глядзі. *Бач ты, якій ён спрытный!* Слаўнае Мсцісл. *Бач! І ён тут!* Касцюковічы.

БАЧКО́М, *прысл.* Бокам, стараною. *Там біліcь на вуліцы, а я ні хацеў мішацца ў ета — бачком, бачком, ды ўцёк двору.* Слаўнае Мсцісл.

БАЧО́К, -чка, *м.* Бачок, свініна з абочыны [з бакавіны]. *У кіпірацыў прівезьлі бачок капчоный, дужа ладный.* Курманава Мсцісл. *Дайця мне паўкілы бычка і дзьве булкі.* Мсціслаў.

БАЧО́НЫК, -нка, *м.* Невялікая бочачка. *Ны вясельлі выпілі целый бачонык піва.* Слаўнае Мсцісл.

БАЧУ́РАЧКА, -і, *ж.* Бочачка. *Мала гуркоў пысаліла — адну бачурічку.* Горкі Краснап. *Налі ў бачурічку вады і пыстаў у калёсы, паедзім на сінакос.* Высокі Бор Краснап.

БАЧУ́РКА, -і, ж. Бочачка. *Купіў сабе невялікую бачурку ны капусту.* Пачаны Краснап.

БАЧЫ́НЬНЯ, -я, *н. зборн.* Бакі. *Я сёння пываліўся ды пабіў сваё бачыньня.* Карабанава Касцюк.

БА́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Бачыць *У астатній раз я яго бачыла ў мінулы чацьвер ны таргу.* Юшкі Мсцісл. *А відзь пыд самым носым стаіць, а ты й ні бачыш!* Забалоцце Расьнян. *Пажыў я ў іх месіц, другій, агоўтаўсь трохі, бачу — людзі нішто сабе.* Ушакі Чэрык. *Дзе йта чыпіла, ці ні бачыў ты чыпялу?* Касцюковічы.

БГАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* [Абгадзіць], пачакаць троху. *Ды 'бгадзі ты трохі, ні сьпяшы!* Пірагова Мсцісл.

БГАРНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Абгарнуць, апанаваць. *Каб цябе нішчасьця 'бгарнула!* Пірагова Мсцісл.

БГАСЬЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Абгасціцца, адпачыць. *Дай ты мне 'бгасьціцца пысьля дарогі.* Юшкі Мсцісл.

БЕ́БІКІ, -аў, *мн. л.* Пячэнне, коржыкі, бублікі. *Смашныя ў вас бебікі.* Хвёдараўка Краснап. *Сяньні мыя маці бебікі пячэць.* Карабанава Касцюк.

БЕ́ГАЦЬ, *дзеясл.* Бегаць. *Што ты бегаіш, як апынтаный, ня ведаіш, што тут нада ціха хадзіць?* Пірагова Мсцісл. *Гэта нада ачмурець, штоб так бегаць па полю, як ён.* Слаўнае Мсцісл.

БЕ́ГМА, *прысл.* Бегма [бягом]. *Я бегма бег, айно дух заняло, пакуль цябе дыганіў.* Жалезніца Крыч. *Бегма бяжыць усю дарогу і стаміўсь.* Калодзецкая Касцюк.

БЕГУ́Н, -а, *м.* Бягун, слупок, на якім трымаюцца вароты ў шуле: служыць замест завесаў. *Прымацувалі вароты к бегуну.* Пацкава Мсцісл. *Дзьверы не ны завесах, а ны бегунах.* Курманава Мсцісл.

БЕ́ГЧЫ [бежч], *дзеясл.* Бегчы. *Сыбака бег чыріз кладку ды зваліўсь у речку. Бегла ны вічарінку, во ўжу думыла адгокыць там, аж на табе: ні скокуў, ні скымарохуў німа.* Арцёмаўка Міласл. *А з гары, з гары, з даліны || Беглі конікі чатырі.* З нар. песні, М. Г. 20.

БЕ́ГЫЦЬ, *дзеясл.* Бегаць. *Целый дзень бегыіш, як скажэнный, а рады німа, нічога ні выбігаіш.* Карабанава Касцюк.

БЕ́Д, -у, *м.* Абед, полудзень. *Нада луччы печку прытапіць, ато бед ні зварыцца, а вячэря саўсім пракісьнець.* Арцёмаўка Міласл.

БЕ́ДНІНЬКІЙ, *прым.* Памянш. ад бедны. *Замарійсь, бедніінькій, і заснуў на голый лаўкі.* Калодзецкая Касцюк. *З горя Айдашка ў пастухі пашоў,|| З горя, беднінькій, пашоў.* З нар. песні, М. Г. 154.

БЕ́ДНЫ, *прым.* Бедны, няшчасны. *Ён ні быгаты чылавек, бедны саўсім.* Буда Рагатая Мілаcл. *Адзінота замучыла бедныга чылавека.* Лешчынка Мсцісл.

БЕ́ДНЯ, -і, *ж.* [Абедня], набажэнства, царкоўная служба. *Бедня ўжо пычалась.* Нова-Ельня Краснап. *Із церкві пышла й 'бедні ні дыстыяла.* Восаў Краснап.

БЕДУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Бедаваць, перажываць бяду, гора. *Біз бацькі бядуваць прыдзецца.* Добрае Мсцісл.

БЕ́ДЫЦЬ, *дзеясл.* Абедаць, палуднаваць. *Хадзі 'бедыць хутчэй, пыра ўжо, ато 'бед прастыніць.* Іванаўка Хоцім.

БЕ́ЖЫНІЦ, -нца, *м.* [Бежанец], уцякач. *Бежыніц — ат вайны ўцікалі, дык і ён пабег.* Парадзіна Мсцісл. *Бежынцы пынаехылі — усю дзяреўню зынялі.* Карабанава Касцюк.

БЕ́З, *прыназ.* Без. *Гвозд зыржавеў, без абцугоў ня выцігніш, пакінь!* Янаўка Мсцісл.

БЕЗАТХЛА́НІ, *прысл.* Без палёгкі, без адпачынку. *Увесь век свой безытхлані работыш, а яму ўсё ні ўлад.* Добрае Мсцісл.

БЕЗАТХЛА́ННА, *прысл.* Без адпачынку. *Ці мае ўжо леці так безытхланна работыць.* Добрае Мсцісл.

БЕ́ЗДЫРАЖ, -ы *ж.* Бездарожжа, бездараж, вялікая гразь па зіме на дарогах. *Куды ты паедзіш у такую бездыраж?* Дубеец Касцюк.

БЕЗКЛАПО́ТНА, *прысл.* Бесклапотна, без рупаты, нядбала. *Жыву сабе безклапотна.* Гібалы Касцюк. *Добра яму: безклапотна жывець.* Пацолтава Мсцісл.

БЕ́ЗМАЛЬ, *прысл.* Без малога, амаль. *Безмаль што хыпаіць грошы на хвустку.* Слаўнае Мсцісл. *Безмаль што ўсю ноч ехылі.* Паланіца Крыч.

БЕ́ЗНА, -ы, *ж.* Бяздонне, процьма, гразкае балота. *У етую безну, як пупадзець скаціна, дык і ня выцігніш.* Хвёдараўка Краснап. *Уехыў у нейкыю безну, што й ня вылізіш.* Тур'я Чэрык.

БЕЗНАДЗЕ́ЙНА, *прысл.* Безнадзейна. *Безнадзейна то найсці, што паціряў.* Добрае Мсцісл.

БЕЗНАДЗЕ́ЙНАСЬЦЬ, -і, *ж.* Безнадзейнасць. *Безнадзейнасьць некыя ў яго, відна нічога ня будзя.* Каладзецкая Касцюк.

БЕЗПІРІСТА́ННЯ, *прысл.* [Беспераcтанна], без перастанку. *Дождж ішоў увесь дзень безпірістаньня.* Гібалы Касцюк.

БЕЗПРІКА́ІНЫЙ, *прым.* Беспрытульны. *Безпрікаіный ходзіць мужчына.* Іванаўка Хоцім.

БЕ́ЗЬЛЮДЗЬДЗЯ, -я, *н.* Бязлюддзе. *Ні дзереўня, а безьлюдзьдзя.* Брылёўка Краснап.

БЕЛАРО́ЗЫВЫЙ, *прым.* Бела-ружовы. *Беларозывый цьвет ны яблыні.* Хвёдараўка Краснап.

БЕЛАХВО́СТ, -а, *м. заал.* Белахвост, птушка. *Найшоў гнязно белахвоста.* Хвёдараўка Краснап.

БЕЛАХВО́СЬЦІК, -а, *м.* Памянш. ад белахвост. *Пяць яец белахвосьціка ў пні знайшоў.* Хвёдараўка Краснап.

БЕ́ЛІНЬКІЙ, *прым.* Памянш. ад белы. *Прібрайсь, як у сьвята: новыі лапці і анучкі белінькія.* Белы Мох Мсцісл.

БЕ́ЛКА, -і, *ж.* Белая. *Яны думылі, што дзеўка, || Ажну сьвіньня-белка.* З нар. песні, М. Г. 40.

БЕ́ЛЫЙ, *прым.* Белы. *Куды луччы белыя ахвырбываньня вакон, чымсі красныя.* Слаўнае Мсцісл. *Спыдыбала мне ані ель, ні сысна, || Ані ель, ні сысна, ні белыя бярёза, || Спыдыбала мне жоўтыя івіна!* З нар. песні, М. Г. 13. *Белый дзень, белыя гліна.* Хвёдараўка Краснап.

БЕ́ЛЫЧКА, -і, *ж.* [Белачка], вавёрка. *Белычка, глядзі, з хвойкі ны бярёзу пірі скачыла.* Калодзецкая Касцюк. *Ды ці я ж ластыўка, || Што па лесі вешыць; || Ды ці я ж белычка, || Што на ліпі кычаць.* З нар. песні, М. Г. 78.

БЕ́ЛЬМЫ, -аў, *мн. л.* [Бельмы], вочы. *Чаго ты бельмы сваі ўставіў — асьлепніш!* Хут. Вінаградаў Мілаcл.

БЕРАСЬЦЕ́НЬ, -я, *м.* [Берасцень], гаршчок, абцягнуты бярозаваю карою; служыць для захавання солі, круп і іншага сыпкага. *Ссып соль у берасьцень.* Хвёдараўка Краснап.

БЕРВЯНО́, -а, *н.* Бервяно. *У сьцяне бервяно згніло, нады новыя ўставіць.* Машавая Бялынкав.

БЕ́РДА, -а, *н.* Бёрда, прылада да кросен. *Маё бёрда шырокыя, частыя, і пылатно выходзіць дужа ладныя.* Слаўнае Мсцісл. *Бёрда на двынаццыць пасым.* Ганнаўка Клім. *Ніткі тонкія, треба і бёрда тонкыя дыстаць.* Парадзіна Мсцісл.

БЕ́РІГ, -а, *м.* Бераг. *Тут беріг рякі атхоный.* Гібалы Касцюк. *Кыла речкі беріг асунуўсь.* Ключ Чэрык.

БЕ́ХКІЙ, *прым.* Хуткі на бег. *Бехкій хлопіц, яго й сыбакый ні дыгнаць.* Палуж Краснап.

БЕ́ЧКА, -а, *н.* 1. Павека. *Калі засуріў вочы, дык пытрясі за бечка, тады выплывіць з сьлязою.* Гібалы Касцюк. 2. Бялок у воку, усё вока. *Маёй авечыццы бяльмом зыцягнула ўсё бечка.* Брылёўка Краснап.

БЗІКЫВА́ТЫЙ, *прым.* [Бзікаваты], чалавек з узбуджанай нервовай сістэмай. *Ён троху бзікаватый — іншы раз і скажыць, дык ні к сялу, ні к горыду.* Маластоўка Краснап.

БЗЬДЗІ́ЛЬНІК, -а, *м.* Газніца, лямпачка без шкла. *Зысьвяці хоць бзьдзільнік, ато цёмна саўсім.* Ліпаўка Хоцім. *Бзьдзільнік разьбіў, і зысьвяціць нечыга.* Іванаўка Хоцім.

БЗДЫ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Бегаць з месца на месца без патрэбы. *Чаго ты бздыкыіш то тут, то там, ні пысядзіш ны адным месьці.* Хвёдараўка Краснап.

БЗЬДЗЮЛЁК, -лька, *м.* Газніца, лямпачка без шкла. *Вазьмі бзьдзюлёк і нясі ў лазьню — цёмна там.* Аляксандраўка Краснап.

БЗЬДЗЮ́ЛЬ, -я, *м.* Палявы клоп. *Дзяўчына сядзела ны лагу, ны яе ўспоўз бзьдзюль, нісумысьля іна яго рыздавіла,*

*дык як зыпахніць клыпамі.* Слаўнае Мсцісл.

БІВА́ЛКА, -і *ж.* Палка, зручная для гульні ў палянку. *Во йта добрыя бівалка!* Хвёдараўка Краснап.

БІГНЯ́, -і, *ж.* Бягня, бегатня, бег. *Ат етыга кыня ні надзейсь на добрыю бягню: хыда добрыя, а бігня—нікуды.* Палуж Краснап. *Дзеці, кіньце сваю бягню, ато пірішкыджаіця працуваць.* Прусіна Касцюк.

БІГУНЕ́Ц, -нца, *м.* Бежанец, уцякач. *Ат вайны ён тут астаўсь, бігунец з-пад Гродны недзе, ды тут і жывець, жаніўшысь з нашый дзеўкый.* Маластоўка Краснап.

БІДА́, -ы, *ж.* Бяда, няшчасце. *У мяне біда зы бядою: то конь здох, то карова нагу зламала.* Асінкі Клім. *А я ў полі жыта жала, ‖ У мяне ў дваре біда стала: ‖ Звалілысь сьвякрова з тыну, ‖ Пылымала ўсю крапіву.* З нар. песні, М. Г. 96.

БІДА́ЧЫЙ, *прым.* Бядачы. *Доля бідачыя, то 'дно, то другоя ні ладна, хуць памрі.* Высокі Бор Краснап.

БІДНЯГА́, -і, *ж.* Бядак, бедны, няшчасны чалавек. *Бідняга абхарчыўсь зы дарогу і есьці нечыга.* Палуж Краснап.

БІДНЯ́К, -а, *м.* Бядак. *Ларівона жына памёрла; як ён будзіць жыць, бідняк,— троя ж дзяцей малых.* Пячары Касцюк.

БІДУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Бедаваць, гараваць. *Кінь ты ўжу бідуваць, ўсёдно ні верніш: што з возу ўпала, то — прыпала.* Машавая Бялынкав.

БІЖЖА́ЛЫСНА, *прысл.* Бязлітасна, жорстка. *Біжжалысна ты зь ім абыйшоўсь.* Высокі Бор Краснап.

БІЗ, *прыназ.* Без. *Ня дзіва, што коні абнэжыліся — цельный дзень біз аддышкі ездзім.* Палуж Краснап. *Біз бацькі цяжка будзець яму жыць.* Рэчыца Чэрык.

БІЗАСНО́ЎНА, *прысл.* Безгрунтоўна [без дастатковай асновы]. *Бізаснойна ряшылі дзела.* Высокі Бор Краснап.

БІЗА́ЦІЛЬНА, *прысл.* Абавязкова. *Кызала цётка, штоб ты ды яе бізацільна прішла ў нядзелю.* Ліпаўка Хоцім.

БІЗА́ЦЦА, *дзеясл.* Абавязацца. *Ён бізаўсь яе карміць, а січас ні хочыць.* Васілёўка Хоцім.

БІЗБАРО́ННЫЙ, *прым.* Бездапаможны. *Ён жа такій ціхій, бізбаронный, усёдно што дзіцянё малое.* Пячары Касцюк.

БІЗГАЛО́ЎЯ, -я, *н.* Безгалоўе, бяда, няшчасце. *Са мной такоя бізгалоўя случылась — жонка памёрла. Сын з бацькым хочыць дзяліцца, а бацька ня хочыць, дык цяпер у дваре такоя бізгалоўя: вешныя сваркі — ні дывядзі бог.* Слаўнае Мсцісл.

БІЗГАНЕ́БНА, *прысл.* Безганебна, без дакору, без ганьбы. *Ён век пражый бізганебна: нічога дурнога пры яго ні скажыш.* Добрае Мсцісл.

БІЗДАРО́ЖЖА, -а, *н.* Бездарожжа, дрэнная, гразкая дарога. *Вясною, ужу сьнег таіў, у самыя павыдкі, у самыя біздарожжа мы ехалі на суд.* Арцёмаўка Міласл.

БІЗЗВАРО́ТНА, *прысл.* Беззваротна. *Дай мне Ульлян гароху мерку біззваротна.* Высокі Бор Краснап.

БІЗЛАДЗЬДЗЯ, -я, *н.* Бязладдзе, жыццё без усякага ладу. *Нывалілась ны іх нейкыя бізладзьдзя: што ні дзень, то ўсё сварушца.* Добрае Мсцісл. *Німа пырядку, адно бізладзьдзя.* Высокі Бор Краснап.

БІЗРАБОТКА, -і, *ж.* Беспрацоўная. *Іна бізработка, ні можыць пуступіць ны работу.* Высокі Бор Краснап.

БІЗУВА́ЖНА, *прысл.* Няўважна. *Абышоўсь ты зь ім бізуважна, ні нада так: чылавек абідзіўсь.* Палуж Краснап.

БІЗУЛА́СЬЦЯ, -я, *н.* Безуладдзе, адсутнасць улады. *Што ета ніхто нічога ні знаіць, бізуласьця ў нас, алі што?* Высокі Бор Краснап.

БІЗУМО́ЎНА, *прысл.* Безумоўна, бясспрэчна. *Бізумоўна, ён — чылавек спрыядлівы.* Мсціслаў.

БІЗУ́Н, -а, *м.* Бізун. *Я сплёў сабе бізун у чатыры редзі.* Слаўнае Мсцісл. *Пыдгані кыня бізуном.* Гібалы Касцюк. *Атпылысываў я його бізуном добря, будзіць доўга помніць.* Ключ Чэрык.

БІЗУНО́К, -нка, *м.* Бізун. *Бізунок мой саўсім ужу сьсёкся, кароткій стаў.* Судзілавічы Клім.

БІЗУ́НЧЫК, -а, *м.* Памянш. ад бізун. *Мой бізунчык хуць тоніңкій, але добра данімаіць.* Слаўнае Мсцісл.

БІЗУСТА́НЬНЯ, *прысл.* Безупынна, нястомна, без адпачынку. *Сёньня прыцуваў цэлый дзень бізустаньня.* Карабанава Касцюк.

БІЗУЦЕ́ШКІ, *прысл.* Няўцешна. *Дзіцёнык бізуцешкі плачыць.* Маластоўка Краснап.

БІЗШЧА́СНЫЙ, *прым.* Няшчасны, бяздольны. *Бізшчасный ён чылавек: за што ні возьміцца, ні ў чым яму ўдачы німа, такей ужу тылан яго.* Арцёмаўка Міласл.

БІЗЫТГАВО́РНА, *прысл.* Безадмоўна, без адгавору. *Глядзі, каб ты зьдзелыў ета к заўтріму бізытгаворна!* Пірагова Мсцісл.

БІЗЮ́КІ, -оў, *мн. л.* Падслепаватыя вочы. *Прулупі бізюкі сваі, дык убачыш, айдзе пута.* Палуж Краснап.

БІКЛА́ГА, -і, *ж.* Біклага, дзеравяная пасудзіна з двума днамі, ушыркі большая, чым увышкі. *Ныбярі ў біклагу вады ды прівязі нам на сенакос.* Бяседавічы Хоцім. *Пыд возым стаіць біклага з вадою — ідзі напіся.* Гусарка Клім. *Заткні біклагу шпунтым, штоб выда ні вылілась.* Слаўнае Мсцісл.

БІКЛА́ЖКА, -і, *ж.* Біклага, біклажка. *Прінясі пойну біклажку вады.* Пухнава Раснян. *Добрыя вешч — біклажка, во вады ўзяць у дарогу — ні рызаб'еціца.* Слаўнае Мсцісл.

БІКУ́Р, -а, *м.* Бізун. *Ня бі кыня бікуром, больна йму.* Стары Дзедзін Міласл.

БІ́ЛА, -а, *н.* Біла, рухомая частка ў мяліцы. *Жывей білым цісьні.* Хвёдараўка Краснап. *Ні рызмахывый так, ато біла зломіш.* Бяседавічы Хоцім.

БІЛЬМАКІ́, -оў, *мн. л.* [Бельмакі, бельмы], вочы. *Чаго ты так сваі більмакі вылупіў, думыіш баюся?* Слаўнае Мсцісл.

БІЛЯБЕ́НІЦЬ, *дзеясл.* Балабоніць, гаварыць абы-што. *Білябеніць языком глупысьці.* Хвёдараўка Краснап.

БІЛЯ́НКА, -і, *ж.* 1. Белавалосая жанчына. *У Ляксандры выласы сьветлыя — ну саўсім білянкый стала.* Брылёўка Краснап. 2. Бялянка. *Быравік жэніцца, ‖ Сыравежку*

*бярець, || Білянка пачула, || Песінкі пяець.* З нар. песні, М. Г. 39.

БІЛЯ́НЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад бялянка. *Дзевычка-білянычка пышла.* Брылёўка Краснап.

БІНДАВО́КІ, *прым.* Аднавокі, сляпы на адно вока. *Ні бяры нажнічык, ато праб'еш вочка і будзеш біндавокій.* Барысавічы Клім. *Ён няпрыгожый такій, біндавокій: адно вока заплюшчына.* Пірагова Мсцісл. *Пашоў Прахор біндавокі.* Брылёўка Краснап.

БІНДА́ЛІКІ, -аў, *мн. л.* Думкі, патаемныя жаданні. *Ён б'ець ны сваe біндалікі.* Хвёдараўна Краснап.

БІНДЖА́К, -а, *м.* Пінжак, адзежына. *Я сабе справій бінджак.* Хвёдараўка Краснап.

БІНДЗЮ́Г, -а, *м.* Драбіны, воз, калёсы, прыстасаваныя вазіць сена, снапы, салому. *Біндзюг наш пылымаўсь саўсім, нечым сена прывезьць.* Пухнава Раснян. *Зыпражом біндзюг і паедзім прівязём сена із аборка.* Новыя Капачы Мсцісл.

БІНЯКІ́, -оў, *мн. л.* Абінякі, гаворка не проста, а кружным шляхам. *Ні цярплю я бінякоў — кажы прама!* Слаўнае Мсцісл.

БІНЯКО́М, *прысл.* Абіняком. *Ён жа ніколі ні скажыць прама, а заўсёды біняком пад'іжджаіць; яго нада зразумець, аб чым ён гаворя.* Прудок Касцюк.

БІРВЯНО́, -а. *н.* Бервяно. *Якіму далі двынаццыць кыранёў ны хату, а з кожныга выйдзець па тры бірвяны.* Добрае Мсцісл. *Узвалілі тоўстыя бірвяно, і кылясо злымалысь.* Хвёдараўка Краснап.

БІРВЯНЦО́, -а, *н.* Бярвенца, памянш. ад бервяно. *Ладныя бірвянцо, роўнінькыя, гладзінькыя.* Лінь Чэрык. *Кацілыся бірвянцо || Чэріз наша сялцо, || А на тым бірьвянцы || Ды чатырі мылайцы.* З нар. песні, М. Г. 73.

БІ́РЖА, -ы, *ж.* Худая, высокая. *Ходзіць па вуліцы, як біржа: вісокыя, худая.* Хвёдараўка Краснап.

БІРЖА́К, -а, *м.* Высокі, сухарлявы чалавек. *Сьціпан Васілёў выріс — біржак біржаком.* Палуж Краснап. *Унь біржак наш ідзець.* Прудок Касцюк.

БІРІЗЬНЯ́К, -а, *м.* Беразняк, бярозавы лес, бярозавы параснік. *Пы шляху рос высокій бірізьняк, а січас увесь парубілі.* Слаўнае Мсцісл. *Пойдзем у бірізьняк пы (а)бабкі.* Пухнава Раснян.

БІРІСЬЦЯ́НКА, -і, *ж.* Берасцянка, пасудзіна з бярозавай кары. *Ныдзяры-ка ты бярёсты ды спляці бірісьцянку ў ягыды хадзіць.* Слаўнае Мсцісл.

БІ́РКА, -і, *ж.* 1. Бірка, палачка з нарэзамі. Ужываецца няграматнымі людзьмі для разліку: палачку з нарэзамі раскалваюць і палавіну аддаюць платніку замест квітка. Пры пацвярджэнні аплаты прыстаўляюць адколатую палавіну і глядзяць, ці сходзяцца нарэзы. *Авчыньнік всягды, як прінімаіць авчыны, дык даець бірку, а тады па етый біркі і гатовыя авчыны выдаець.* Бяседавічы Хоцім. *Ці пыставій ты бірку на 'ўчыны?* Хвёдараўка Краснап. *Ета ні мае аўчыны,— бірка ні падыходзіць.* Пячары Касцюк. 2. Гульня. *Будзім гуляць у бірку.* Хвёдараўка Краснап.

БІРКУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Біркаваць, адзначаць на бірцы. *Ты ні хадзі нікуды — прівязуць сяньні аўчыны з вырыбу, дык ты будзеш біркуваць, прігатоў біркі.* Слаўнае Мсцісл. *Максіму шкуру вешыць, || Паўлену шастоў дыстываць, || Васілю прівізаць, || Рыману біркуваць.* З нар. песні, М. Г. 65.

БІРЯГЧЫ́ (бярэжч), *дзеясл.* [Берагчы], сцерагчы, ахоўваць. *Біряжі чужоя — будзіш мець сваё.* Маластоўка Краснап.

БІРЯГЧЫ́СЬ, *дзеясл.* [Берагчыся], сцерагчыся. *Біряжысь Матруны, іна (а)судніца — кожныга асудзіць.* Палуж Краснап.

БІРЯЖО́К, -жка, *м.* Памянш. ад бераг. *Біряжок у хусты зялёнінькій такей.* Буда Рагатая Міласл. *На морі вутычка купалыся, || На біряжку сушылыся.* З нар. песні, М. Г. 89.

БІРЯЗУ́ЛЬКА, -і, *ж.* Беразулька, кветка. *Сінім цьветам цьвіцець бірязулька ў лесі.* Хвёдараўка Краснап.

БІРЯЗЕ́НЬ, -зня, *м.* Гаршчок, абгорнуты бярозавай карою. *Бірязень зыняты гарохым, пірясып ты яго ў што-небудзь. Маці дыстала з бірізьня сыру.* Роськаў Хоцім.

БІРЯСЬЦЕ́НЬ, -я, *м.* 1. [Берасцень], гліняная пасудзіна, абгорнутая бярозаваю карою. *У етый махоткі треснуў толькі адзін бок, нада яго абвіць бяростыю, дык харошый бірясьцень для сыруў будзець.* Бяседавічы Хоцім. *Бірясьцень с сырамі нада з чулана ў погріб занесьць, ато штоб ён ат марозу ні лопнуў.* Арцёмаўка Міласл.

БІСКАНЦО́ВЫЙ, *прым.* Бясконцы. *Зыцягнуў біскансовыю песьню* (доўгую гутарку). Высокі Бор Краснап.

БІСКА́РНА, *прысл.* Бяскарна, без пакарання. *Машэньства праходзіць іму біскарна.* Маластоўка Краснап.

БІСКАСЬЦЁВЫЙ, *прым.* Бяскосты. *Выгібвыіцца ва ўсе сторыны, біскасьцёвый 'сё роўна.* Арцёмаўка Міласл.

БІСПАКУ́ТНА, *прысл.* Беспакутна. *Гарюн етый біспакутна ўсё піряносіць.* Буда Рагатая Міласл.

БІСПАЛО́ЖАНЫЙ, *прым.* Няўчасны. *У біспаложыный час прійшоў ды нас.* Палуж Краснап.

БІСПІРІСТА́НКУ, *прысл.* Бесперастанку, не спыняючыся. *Цельныю ноч біспірістанку ліў дождж.* Арцёмаўка Міласл. *Дошч цельный дзень льець біспірістанку.* Высокі Бор Краснап.

БІСПЛО́ДНЫЙ, *прым.* Бясплодны. *На 'дзольлі нічога ні ўродзіць: ета зімля біспло́дныя і сеяць ні треба.* Хвёдараўка Краснап.

БІСПРІМА́ШНА, *прысл.* Непамыльна [беспамылкова]. *Ён карты атгадываіць біспрімашна: якую ты ні задумыіш — січас скажыць.* Роськаў Хоцім.

БІСПРІМЕ́ННЫЙ *прым.* Абавязковы. *Баріс прідзіць — ён біспріменный пысяціціль.* Маластоўка Краснап.

БІСПРІМІ́ННА, *прысл.* Абавязкова, няўхільна. *Ці йта конна біспрімінна ён доўжын ехыць? Ета ні абізацільна, можыць і хто-небудзь другей паехыць.* Арцёмаўка Мі-

ласл. *Біспрімінна нада ў пятніцу пабыць у Амсьціслаўлі.* Пірагова Мсцісл.

БІСПРІЧЫ́ННА, *прысл.* Беспрычынна. *Назы рызыбрацца, хто вінуват, ны таго і крічы, а ны мяне ты біспрічынна ныпадаіш; я тут ні ў прічыні, я нічога і ні знаю аб етым.* Арцёмаўка Міласл.

БІСПРЫМЕ́ННА, *прысл.* Абавязкова. *Аксён скызаў, што біспрыменна будзіць у скрысення ў Краснаполлі.* Палуж Краснап.

БІСПЯРЕ́ЧНА, *прысл.* Беспярэчна, бясспрэчна, без адгаворак. *Хоць раз ты біспяречна зрабі тоя, што я табе кажу.* Добрае Мсцісл.

БІССАМЛЕ́ННА, *прысл.* Безумоўна, не разважаючы. *Бярісь за ета дзела біссамленна.* Высокі Бор Краснап.

БІССАМЛЕ́ННЫЙ, *прым.* Безумоўны. *Біссамленныя выгыда — прыдаць етыга кыня.* Высокі Бор Краснап.

БІССТАРО́ННА, *прысл.* Бесстаронна, незацікаўлена. *Я бісстаронна к етыму падыходжу, мне, што ты, што другей, 'сероўна.* Брылёўка Краснап.

БІССТРА́ТНА, *прысл.* Бяззгубна. *Купіў кыня, а конь з норывым, хырашо хуць прыдаў яго бісстратна.* Краснаполле.

БІСЦЫРІМО́ННА, *прысл.* [Бесцырымонна], проста. *Дужа бісцырімонна ты зь ім рызгуваріїш.* Палуж Краснап.

БІСЧА́СЬЦЯ, -я, *н.* Няшчасце, нядоля. *Ну такоя ны маю гылаву выпыла бісчасьця — пасьледнія карова здохла.* Слаўнае Мсцісл.

БІ́ТВА, -ы, *ж.* Бойка. *Браты ўзьнялі бітву зы хамут — ні пыдзялілі дабром.* Боханы Росл.

БІ́ТЫ, *прым.* 1. Біты, пабіты не адзін раз. *Я толькі печчу ня біты, а 'б печ біты.* Пячары Касцюк. *Зы бітыга двух нябітых даюць.* Палуж Краснап. 2. Утаптаны (пра дарогу). *Усе людзі едуць па бітый дарозі, толькі ты круцісьсі пы быках.* Пачаны Краснап. *Як пушчу я два талеры па бітый дарозі, || Адзін талер пыкаціўся, другій прізыстаўся, || Знаю, знаю: мой міленькі з другою скыхаўся.* З нар. песні, М. Г. 90. 3. (У спалучэнні з *часіна, час*) цэлы, добры, поўны. *Тры бітых часіны ні було бабы.* Палуж Краснап.

БІЦА́ЦЬ, *дзеясл.* Абяцаць, дакляраваць. *Ета нада атдаць Яўмену — біцаў я яму.* Юшкі Мсцісл. *Татка біцаіць купіць мне новую шапку к сьвяту.* Прудок Касцюк.

БІ́ЦІ, *дзеясл.* Біць. *Будзець мяне маці біці, ні пайду двору.* Старына Мсцісл. *Ныляцелі гусі, а с чужыя Русі; || Сталі яны ды ваду піці, || Аб лёд крыльлім біці.* З нар. песні, М. Г. 42—43.

БІ́ЦЦА, *дзеясл.* Біцца. *Будзім біцца, ай мірыцца?* Палуж Краснап. *Ня йдзі туды, ато там хлопцы будуць біцца.* Касцюковічы.

БІЦЬ, *дзеясл.* 1. Біць. *Узяў палку і пычаў біць сыбаку.* Барысавічы Клім. *Як пычаў мой конь артачыцца, я яго і біў і чаго ня дзелыў, а німа рады.* Пірагова Мсцісл. 2. (Пра алей, масла) збіваць. *Ка мне пріхадзіў алейнік спрашываць, ці буду я біць алей.* Канічы Касцюк. *Нада біць масла, ато сьмітана прагоркніць.* Парадзіна Мсцісл. 3. Абіваць, малаціць. *Нада іці біць лён, ато людзі ўжу свой пыслалі, а наш ляжыць яшчэ нябітый.* Бяседавічы Хоцім.

БІЧ, -а, *м.* Біч, дубовая палка, што прывязваецца да цапільна ў цэпе [і бізун]. *Пабіўся мой біч, і мылаціць нечым.* Машавая Бялянкав. *Нада біць всім бічум, ато ліжыць кончыкум, іш як біч зывастріўся.* Бяседавічы Хоцім.

БІЧА́ЙКА, -і, *ж.* 1. Абячайка, лубок у рэшаце. *Решыта пырвалысь, а бічайка яшчэ зусім новыя, нада купіць у ряшотніка решыта кусок і падшыць к етый бічайкі.* Арцёмаўка Міласл. *Бічайка ў решыце пылымалыся.* Слаўнае Мсцісл. 2. Вобад у бубне. *Як кінуў бубен аб зямлю, дык бічайка треснула.* Хвёдараўка Краснап.

БІЧО́ЎКА, -і, *ж.* Вяроўка. *Зьвіў бічоўку з кынапель.* Малюшын Краснап.

БІЧУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Бічаваць, біць, мучыць. *Ня ведыю, ці скора пірістаніць бічуваць яго етыя боль.* Канічы Касцюк. *Што ты бічуіш кыня, што ты б'еш яго, ці ты ні бачыш, што ён ні можыць узяць.* Парадзіна Мсцісл.

БІЧУ́Г, -а, *м.* Біч, пуга. *Конь баіцца бічуга.* Шумячы. *Вазьмі бічуг ды адгані кароў ат шкоды.* Боханы Шумяц.

БІЧУ́К, -а, *м.* Бічук, біч. *Бічук атырваўсь — прівязьні дренныя.* Хвёдараўка Краснап. *Як малоцяць, дык бічукі ўзьлітаюць уверх адзін зы адным, а тады тухыюць пы снытах.* Слаўнае Мсцісл.

БІЧЭ́ЙКА, -і, *ж.* Тонкая вяровачка. *Зьві-ка ты мне, Саўка, танюткую бічэйку.* Добрае Мсцісл.

БЛАЗНО́ТА, -ы, *ж.* Блазен, малады, малы яшчэ. *Блазнота ты, у цябе яшчэ мылако ны губах ні абсохла, а ты ўжу цылуваціа лезіш.* Слаўнае Мсцісл.

БЛА́ЗЬНІ, -яў, *мн. л.* Блазні, малеча. *Ей многа ўходу кыла хызяйства, кылы красён, а тут блазьні етыя: у яе ж іх пяціра, ды кажагодкі — старшыму шэсьць гадоў усяго.* Арцёмаўка Міласл.

БЛАЗЬНЮ́К, -а, *м.* Блазен, малалетак. *Блазьнюк ты яшчэ.* Лютня Краснап. *Куды ты пашлеш яго, блазьнюка етыга — плакаць яшчэ будзець.* Лінь Крыч.

БЛАХО́Н, -а, *м.* Балахон, верхняя адзежына. *Узьдзеў блахон і пашоў нейдзі.* Брылёўка Краснап.

БЛЕ́КАТ, -у, *м. бат.* Блёкат, балігалоў, расліна, што расце на сметніках, каля плоту. *На што ты блёкат ірвеш, ён жа тухліць?* Добрае Мсцісл. *Нысыбірай замез шчаўля блёкыту.* Арцёмаўка Міласл.

БЛІГА́ЦЦА, *дзеясл.* Аблягацца, абапірацца локцямі. *Ні блігайсь так на стол, ато запэцкыісься.* Пірагова Мсцісл.

БЛІ́ЖЫЦЦА, *дзеясл.* Набліжацца. *Праходзіць восінь, ды зіма ўжо бліжыцца халодныя.* Ушакі Чэрык. *Гусі ліцяць на вырый — зіма бліжыцца.* Прусіна Касцюк.

БЛІЖЭ́Й, *прысл.* Бліжэй, больш блізка. *Падыйдзі ка мне бліжэй.* Карабанава Касцюк. *Асьмеліўсь, пыдайшоў бліжэй.* Пірагова Мсцісл.

БЛІЖЭ́НЬНЯ, -я, *н.* Набліжэнне. *Я заўважый у цемнаце бліжэньня ка мне чылавека.* Пячары Касцюк.

БЛІЗА́ЦЦА, *дзеясл.* Аблізацца. *Бліжыся, ато маціріна мылако ны губах.* Паўлавічы Клім.

БЛІЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Аблізаць. *Чаму ты ложкі ні блізаў? Як еў, так і пакінуў.* Гусарка Клім.

БЛІ́ЗКА, *прысл.* Блізка. *Ужо і горад блізка, а іціць німа сілы.* Лешчынка Мсцісл.

БЛІЗНА́, -ы, *ж.* Блізна, памылкова палажаныя ніткі пры снаванні — дзве побач. *Быльшая ў цябе блізна ў краснох.* Хвёдараўка Краснап. *Як снувала кросны, дык блізну нейк пылажыла.* Прудок Касцюк.

БЛІЗЬНЮ́К, -а, *м.* Блазнюк. *Ты яшчэ блізьнюк, мала ведыіш што.* Студзянец Касцюк.

БЛІН, -а, *м.* Блін. *Зьеш хуць блін, усё лепі будзець у дарозі, чымся так ехаць.* Старына Мсцісл. *А новыя хатычка, ‖ Ды стырая печ, ‖ Ня ўмеіць мылыдая ‖ Бліноў печ!* З нар. песні, М. Г. 34.

БЛІ́НЧЫК, -а, *м.* Памянш. ад блін. *Маці сёньні блінчыкаў ныпікла.* Буда Рагатая Міласл. *Усі бліны паелі, а мне ні ’днаго блінчыка ні аставілі.* Прудок Касцюк.

БЛІНЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Адлінеіць, палінаваць, правесці рыскі пад лінейку. *Нада блінываць, ато так кріва напішаш.* Пірагова Мсцісл.

БЛІСКАВІ́ЦА, -ы, *ж.* Бліскавіца, маланка. *Бліскавіца блішчыць, верна, будзіць рабінывыя ноч.* Куркаўшчына Мсцісл.

БЛІСКУ́ЧЫ, *прым.* Бліскучы. *Ай, які твой нож бліскучы.* Касцюковічы.

БЛІ́СКУЎКА, -і, *ж.* Бліскаўка, маланка, бліскавіца. *Ноччу грымеў гром, і бліскуўка як сьвісьніць, дык сьветла станець кругом, усё відна.* Арцёмаўка Міласл.

БЛІСЬНЯ́, -і, *ж.* Бляшня, рыбка з бляхі, што прычэпліваецца да вуды для прыманкі рыб. *Нешта цяпер рыба ня ловіцца на блісьню.* Тур’я Чэрык. *Купіў я сабе вуду і блісьню.* Прудок Касцюк.

БЛІША́НКА, -і, *ж.* Бляшанка, пудэлка з бляхі. *Нясець у блішанкі кырасін і ні відзіць, што іна цякець.* Арцёмаўка Міласл. *Вазьмі там блішанку і зачэрпні мне вады.* Пячары Касцюк.

БЛІША́НЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад бляшанка. *Хлопчык гуляя з блішанычкай.* Горкі Краснап.

БЛІШЧА́НКА, -і, *ж.* Бляшанка. *Сылдат прыдаў блішчанку з рыбай.* Палуж Краснап.

БЛІШЧЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Блішчаць. *Пацёр кружку пяском, дык во як пычыла блішчэць.* Добрае Мсцісл. *Золыта блішчыць.* Іванаўка Хоцім.

БЛОНЬ, -і, *ж.* Роўнядзь, роўная нізіна. *Далёка за блоньню сінеіць лес.* Пірагова Мсцісл. *Па блоньню выда рызьліваіцца, ‖ А Йван дачкою ныбіваіцца.* З нар. песні, М. Г. 77.

БЛО́НЬНЯ, -я, *н.* 1. Роўнае поле, выган. *Гані сьвіньней на блоньня.* Турэйск Краснап. 2. Улонне, калені ног. *Пысадзі яе к сабе на блоньня.* Пячары Касцюк.

БЛУД, -у, *м.* 1. Блуд, распуста. *На Іваныву дзеўку блуд найшоў: кожны дзень з хлыпцамі валочыцца.* Касцюковічы. 2. Вар’ят, не ў поўным розуме. *Блуд ты, а ні чылавек, што ты ета нырабіў.* Хвёдараўка Краснап. 3. Блуд, страта арыентыроўкі ў лесе. *Як ныпаў ны мяне блуд, дык хоць ты што — ні магу з лесу выйсьці.* Лядзішча Міласл.

БЛУ́ДЖЫНЬНЯ, -я, *н.* Блуканне [блуджэнне]. *Калі скончыцца нашыя блуджыньня па етым лесі? Ныдаела ўжу, хадзем двору.* Маластоўка Краснап.

БЛУДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Блудзіць, не знаходзіць дарогі. *Як толькі пайду ў лес, дык і пачынаю блудзіць.* Явуліна Касцюк. *Блудзіў-блудзіў па лесі, ледзь выйшаў.* Турэйск Краснап.

БЛУКА́НЬНЯ, -я, *н.* Мітусня [бегатня]. *Блуканьня, як ны пыжарі: усі бегыюць, крічаць, а чаго — нізнама.* Слаўнае Мсцісл.

БЛУКА́ЦЦА, *дзеясл.* Блукаць, бадзяцца без справы, мітусіцца [сноўдаць]. *Чаго ты блукаісься? Сеў бы ды пысядзеў спакойна.* Віхраны Мсцісл.

БЛУ́ТАЦЦА, *дзеясл.* Блытацца. *Ты ні сьпішай лічыць, ато блутаісься.* Явуліна Касцюк. *Будзіш тут блутацца зь етымі ніткамі да вечыра і ні разблутаіш.* Турэйск Краснап.

БЛУ́ТАЦЬ, *дзеясл.* Блытаць, збіваць з ліку [і блудзіць]. *Ні блутай ты міне, дай палічыць авечык — ну, вот узноў зьбіўсь!* Ушакі Чэрык.

БЛУГАВЕ́ШЧЫНЬНЯ, -я, *н.* Благавешчанне, веснавое рэлігійнае свята, дзень 25 сакавіка ст. ст. *Як прідзіць блугавешчыньня, дык дзеўкі, хлопцы і нікаторыя мыладзіцы ідуць, дзе высока, дровы ці мяльля кылы лазьні, сыдзяцца і гукаюць вясну.* Большая Багацькаўка Мсцісл.

БЛЫГЫСЛАВІ́ЦЬ, *дзеясл.* Благаславіць. *Благаславіця, татка й маці, мыладому ны пасад сесьць.* Стары Стан Міласл. *Што вам, гусычкі, ды таго: ‖ Есьць у мяне мамычка длі таго; ‖ Пасьцеліць кайры — я пайду, ‖ Блыгыславіць сесьці — я сяду.* З нар. песні, М. Г. 18.

БЛЫЗЬНЯ́ЦЬКІЙ, *прым.* Блазенскі, дзіцячы. *Блызьняцькый ета рызгавор і слухыць ні хачу.* Турэйск Краснап.

БЛЫСЛАВІ́ЦЬ, *дзеясл.* Благаславіць. *Блыславі, божа, жыта сеіць, у добры час, у шчасьлівыю мінуту.* Явуліна Касцюк.

БЛЫСЛЫЎЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Благаслаўляць. *Мыладых толькі яшчэ пычалі блыслыўляць.* Добрае Мсцісл.

БЛЫХА́, -і, *ж.* Блыха. *Скача сабе, як блыха, невялічкыя, чорніенькыя.* Парадзіна Мсцісл. *Мядзьведзь кыня пасець, ‖ А прус ваду нясець, ‖ Блыха хату топіць, ‖ Сьвіньня дзежку месіць.* З нар. песні, М. Г. 82.

БЛЫХА́РНЯ, -і, *ж.* Турма. *Ыпадзесься ў блыхарню, дык пызнаіш, па чым хунт ліха.* Лінь Крыч. *Пыцягнулі Якыва ў блыхарню.* Хвёдараўка Краснап.

БЛЮ́ДА, -а, *н.* Талерка. *Марылька нісла блюда ягыд і разьбіла.* Смолькаўская Буда Бялынкаў. *А калі ж ба ў нас ды ні сіріда, ‖ А ўлавіла б я віріб’я, ‖ Расьсекла б яго на сем штук, ‖ Рысклала б яго на сем блюд.* З нар. песні, М. Г. 44.

БЛЮ́ДЗЬКА, -а, *н.* Сподак, сподачак. *Блюдзька разбэхыла.* Палуж Краснап. *Блюдзька разьбілысь, а хвіліжанка зыстылася цэлыя.* Паланіца Крыч. *Блюдзька зьля-*

*цела сы стыла і раскокылыся.* Турэйск Краснап.

БЛЮ́ЗЬНІЦЬ, *дзеясл.* Блюзніць, гаварыць непрыстойныя словы. *Якыў узноў пычаў блюзніць, відаць, выпіў лішнія.* Добрае Мсцісл.

БЛЮЗЬНЯ́, -і, *ж.* Месца ў палатне, дзе пры тканні парваная нітка пакідае дарожку. *Пыглядзі-ка ў пылатне блюзьня скрозь усё цягніцца, верна, нітка пырвалыся, а ты ні замеціла.* Слаўнае Мсцісл.

БЛЮ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Берагчы, захоўваць. *Ягыды блюду на зіму.* Палуж Краснап. *Кыўбасу блюла для сына, а кот дыстаў ды зьеў.* Буда Рагатая Міласл.

БЛЯ́ХА, -і, *ж.* Бляха, тонкі жалезны ліст. *Купілі сундук, аббітый бляхыю.* Сохана Мсцісл. *Я думыю хату пакрыць бляхыю.* Кацюковічы. *Тоўстыя бляха ў етый блішанкі.* Лінь Крыч.

БЛЯ́ХЫРЬ, -а, *м.* Бляхар, майстар, што робіць розныя рэчы з бляхі. *Зынясі вядро к бляхырю, дык ён і пачыня.* Кацюковічы. *Добры карец зьдзелыў бляхырь.* Шумячы. *Бляхырь зрабіў вёдры з бляхі.* Міцькаўшчына Мсцісл.

БЛЯ́ШКА, -і, *ж.* Памянш. ад бляха. *Вазьмі кусок бляшкі і прыбі кыла печы, каб ні гарэў мост.* Слаўнае Мсцісл.

БЛЯЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Бляяць. *Нечыя аўца нізыгнаныя, бегаіць па вуліцы і бляець.* Рудня Клім. *Мы думылі — сваткі пяюць, ‖ Ажну вoўцы бляюць.* З нар. песні, М. Г. 40.

БМА́НЫВЫЦЬ, *дзеясл.* [Абманваць], ашукваць. *Ні бманывый ты старую матку сваю, скажы ёй праўду!* Пірагова Мсцісл.

БМІШЭ́НІЦЦА, *дзеясл.* Абмішэніцца, не папасці ў цэль. *Бмішэніўсь, ні пупаў у зайца.* Хвёдараўка Краснап.

БМУ́ТКІ, -аў, *мн. л.* Абмуткі, асадкі муту на дне. *Што тут піць? Адны бмуткі зысталісь.* Каробчына Мсцісл.

БО, *злучн.* Бо. *Аблавух надзень, бо вушы адмарозіш.* Белы Мох Мсцісл. *Глядзі, каб добра было, бо калі ты зробіш кепска, то гета длі сябе.* Канічы Кацюк.

БОБ, -у, *м.* Боб. *Пасеілі боб, ды ніўчас — суш надта стаіць — ні вырысьціць.* Бакунавічы Чэрык. *Добры ў вас бабоўнік, напэўна, й боб добрый быў.* Тупічын Мсцісл.

БО́ГАВА КАРО́ЎКА, *ж. заал.* Божая кароўка. *Богава кароўка ўспыўзла ны паліц.* Хвёдараўка Краснап.

БО́ГЫЛАЙ, -я, *м.* Багахульнік. *Аксён ныстыяшчый богылай, ты паслухый, што ён пры сьвятых кажыць.* Высокі Бор Краснап.

БО́ДРА, *прысл.* Жвава, хутка. *Пляменьнік бодра ныпрянуўся і паехыў у лес.* Палуж Краснап.

БО́ДРЫЙ, *прым.* Горды [і жвавы, рухавы]. *Ён дужа бодрый і гываріць ня хочыць.* Хвёдараўка Краснап.

БО́ЖКЫНЬНЯ, -я, *н.* Божканне, вохканне. *Ну, што божкыць? Божкыньня ні паможыць.* Горкі Краснап.

БО́ЖКЫЦЬ, *дзеясл.* Божкаць, вохкаць. *Чаго ты божкыіш? Усё 'дно горю ні пасобіш.* Палуж Краснап. *У біднягі выцігнулі з кырмана грошы: божкыў-божкыў, але што ж ты зьдзелыіш.* Слаўнае Мсцісл.

БО́ЖЫНЬКА, -і, *м.* Памянш. ад бог. *Ня руш, ато божынька ўбачыць — сварыцца будзіць!* Сялец Клім. *Хвыла ж табе, божынька, ‖ Што я пана ашукаў: ‖ Іс панію нычуваў, ‖ Пан конікыў дырuваў.* З нар. песні, М. Г. 138.

БО́ЖЖЫЯ СЛЁЗКІ, *бат.* Лугавая гваздзіка. *Ны бузгорку божжыя сьлёзкі цьвітуць.* Хвёдараўка Краснап.

БО́ЯЗ, -у, *м.* Страх. *Бяз боізу едзь туды.* Палуж Краснап. *А ніхай яго, я толькі боізу ныбраўсь, ніколі ні паеду ўночы адзін.* Баханы Чэрык.

БО́ІЗНА, *прысл.* Боязна, страшна. *Неік боізна іці аднаму ўвечыры пы лясу.* Слаўнае Мсцісл.

БО́ЙКІЙ, *прым.* Дасціпны, кемлівы. *Ён бойкій хлопіц, ён сабе дарогу праб'ецьць — ні прыпадзець.* Арцёмаўка Міласл.

БО́ЙКАСЦЬ, -і, *ж.* Дасціпнасць, кемлівасць. *Куды дзівались яго бойкысць? Нейкый ціхій стаў. А то ж бывала ён усюдых пралезіць, што нада, распытаіць, узнаіць — дужа ўжу праворный быў.* Арцёмаўка Міласл.

БОК, -а і -у, *м.* 1. Бок [частка цела]. *Нешта мне бок баліць, ці ні прастыў толькі я, спаўшы ны зямлі?* Асінікі Клім. 2. Бок, старана. *Гета атваротны бок сукна, а ты пыглядзі с правыга.* Пірагова Мсцісл. *Пайдзём на тэй бок вуліцы, ато тут гразка.* Кацюковічы.

БО́ЛЕЙ, *прысл.* Болей, больш. *Абстраміла я яе на ўсю вуліцу, болей ня пойдзе красьць.* Пірагова Мсцісл. *У мяне болей арехый, як у цябе.* Сялец Клім.

БО́ЛІ, *прысл.* Болей. *Атвадзілісь яны ўжо, болі ня пойдуць.* Пірагова Мсцісл. *Ні магу ўзяць болі нічога — абедзьві рукі зыняты.* Старае Сяло Мсцісл. *Тут будзіць болі, як ты налічыла.* Дзіснакіта Мсцісл.

БО́ЛІЗЬНЬ, -і, *ж.* Хвароба. *Нейкая болізьнь прістала ды ягo: ходзіць сагнуўшысь.* Высокі Бор Краснап.

БО́ЛІСНА, *прысл.* Балюча. *Так агрэў яго па вуху, што аж мне болісна стала.* Добрае Мсцісл.

БО́ЛІСНЫЙ, *прым.* Балючы. *Ныга ўся ўспухла, пухліна болісныя.* Краснаполле.

БО́ЛІСЬЦЬ, -і, *ж.* Хвароба. *Болісьць ыпала, гылавы пыднясць ні магу, пывярнуцца нільзя.* Буда Рагатая Міласл.

БО́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Большаць, павялічвацца. *Дзень пычаў боліць.* Палуж Краснап. *Дзіцёнык болія.* Турэйск Краснап.

БО́ЛІЧА, *прысл.* Балюча. *Мне так боліча зрабілыся, як ён мяне ўкалоў, чуць пірянесла.* Добрае Мсцісл.

БО́ЛІЧКА, -і, *ж.* Болька, невялікая ранка. *Ета ў мяне тут прішчык быў, я скулупнуў яго, дык болічка стала.* Арцёмаўка Міласл.

БО́ЛНА, *прысл.* Балюча. *Іван дужа болна ўдарій сабе нагу.* Гарбавічы Кацюк.

БО́ЛНЫЙ, *прым.* Хворы. *У мяне болный паліц аддудырыўсь, і ніяк яго ні прігнеш.* Гібалы Кацюк.

БО́ЛМАТ, -а, *м.* Балбатун. *Ня вер ты яму! Гэта ж такі болмат, проста вужас: усё языком меліць.* Добрае Мсцісл. *Слу-*

*шый ты етыга болмыта, чаго ён толькі ні нывярзець.* Палуж Краснап. *Перістань ты, болмат, чаго меліш языком.* Вародзькава Чэрык.

БО́ЛЫКІ, -аў, *мн. л.* Воблакі, хмаркі. *Па небі плывуць болыкі.* Кокатава Мсцісл. *Па небі такія страшныя болыкі ходзюць — хыця б ні пашоў град.* Слаўнае Мсцісл.

БОЛЬ, -і, *ж.* Боль. *Аппёк паліц аб гырячыя жалеза — тыкая боль, што сьцірпець нільзя.* Касцюковічы.

БО́ЛЬКА, -і, *ж.* Болька, ранка. *У Зьмітрыка на руце болька.* Гібалы Касцюк. *У мяне ніякый болькі німа, значыць, я здаровыя і ні зыразныя.* Радзівонаўка Мсцісл. *У дзевачкі на руце ёсць болька, дык іна і плачыць таго.* Усьцінавічы Краснап.

БО́ЛЬНІНЬКА, *прысл.* Балюча. *Табе больнінька, ік я цябе так вазьму?* Явуліна Касцюк.

БО́ЛЬНІНЬКІЙ, *прым.* Хворанькі, хворы. *Марусінька больнінька ліжала, ‖ Чорным шоўкам галоўка зьвізана.* З нар. песні, М. Г. 112.

БОЛЬШ, *прысл.* Больш, болей. *Мне больш хлеба ня треба.* Прусіна Касцюк. *Думаў, што сьвету ўжо больш ні ўбачу — так балеў жывот.* Ушакі Чэрык.

БО́ЛЬШЫ, *прысл.* Больш. *Асьлі ба ён паможыць — большы некыму.* Палуж Краснап. *Я большы зы цябе пажыў на сьвеце і большы ведыю.* Высокі Бор Краснап.

БО́ЛЬШЫЙ, *прым.* Большы, старэйшы. *Малэя дзеці абдзіркі большых носюць.* Палуж Краснап. *Ты ж большы, табе ўжу брыдка маліньскіх забіжаць.* Гусарка Клім.

БО́ЛЬШЫЦЬ, *дзеясл.* Большаць, расці, павялічвацца. *Дзень ужу пачынае большыць.* Касцюковічы. *Дзень большыць пычаў.* Палуж Краснап. *Юрка большыіць, скора цябе дагоніць.* Маластоўка Краснап.

БО́НДА, -ы, *ж.* Бонда, пірог, круглая булачка з белай мукі. *Бонда ваша белыя.* Прудок Касцюк. *Баба хацела сьпекчы бонды, ды сьвіньня цеста зьела.* Высокі Бор Краснап.

БО́НДЫРЬ, -а, *м.* Бондар, майстар, што робіць бочкі. *Бондырь на бочку набіў абруч, іна і цеч пірістала.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Зынясі бочку да бондыря, ніхай ён яе ныладзіць.* Касцюковічы.

БОР, -а і -у, *м.* Бор, сасновы лес. *У бару чарніц сёліта — зямлі ні знаць.* Шыркі Раснян. *Кукывала зязюлька, ‖ Што бор мал: ‖ А куды ж я пылячу, ‖ Блізка край.* З нар. песні, М. Г. 49.

БО́РГЫНЬНЯ, -я, *н.* Барацьба. *Штоб сагрецца, хлопцы боргыньня пычалі.* Маластоўка Краснап.

БО́РГЫЦЦА, *дзеясл.* Барацца, бароцца, дужацца. *Яны боргылісь адзін з адным.* Палуж Краснап.

БО́РЗДА, *прысл.* Борзда, хутка, скора. *Сяньні мы борзда прайшлі пітнаццыць вёрст.* Добрае Мсцісл. *Ідзі, толькі борзда!* Пушкова Мсцісл.

БО́РЗДЫЙ, *прым.* Борзды, хуткі, скоры. *У яго ногі борздыя — жыва дыбяжыць.* Нова-Ельня Краснап.

БО́РІЛКА, -а, *н.* 1. Барылка, бачурка для вады. *Борілка рассохлысь — цякець.* Журбін Бялынкав. 2. Точаныя з дзерава накладкі на падсядзёлку. *Борілкі 'т сядзёлкі атваліваюцца.* Там жа.

БО́РІЛЬШЧЫК, -а, *м.* [Барэц]. *Іго ніхто ні паборіць — ён сільный борільшчык.* Высокі Бор Краснап.

БО́РІНЬНЯ, -я, *н.* Барацьба. *Ніправільныя боріньня: падножку нільзя пыдстыўляць.* Палуж Краснап.

БО́РІЦЦА, *дзеясл.* Бароцца, дужацца. *Паспорілі, хто здыравей, і сталі боріцца, хто каго піряможыць.* Арцёмаўка Міласл.

БО́РКА, -і, *ж.* Аборка, вяровачка. *Саўі мне боркі ны лапці. Пыдпіряжысь хуць боркыю!* Гарбавічы Касцюк. *У лапці ўцягнулі новыя боркі.* Машавая Бялынкав. *Каб борка хуць ікая была, ато зьвізаць нечым.* Зарубец Крыч.

БОРЦЬ, -і, *ж.* Борць, дупло, дзе гняздзяцца пчолы. *Сяньні ў маю борць зыляцеў рой.* Бяседавічы Хоцім. *Рой сеў у борць.* Гібалы Касцюк.

БО́СЫ, *прым.* Босы, неабуты. *Ішоў босы пы шашы, ды падбіўсь — пяты быляць.* Явуліна Касцюк. *Ня лезь з босымі ныгамі ў балота, ато балець будуць.* Пірагова Мсцісл. *А ны гаре роса, ‖ Марютычка боса, ‖ Сьцідзёна, халодна!* З нар. песні, М. Г. 76.

БО́СЬЦЬ, *дзеясл.* Бадаць рагамі. *Навучыця бугыя босьць, тады ня пройдзіш за ім па вуліцы.* Добрае Мсцісл. *Карова як пычыла яго босьць — ледзь абыранілі.* Касцюковічы.

БОТ, -а, *м.* Бот. *Мой бот адзін пакрівіўсь, нада к сапожніку несьць.* Лядзішча Міласл. *Дурны ты бот, што ты пынімаіш?* Канічы Касцюк.

БО́ТАЦЬ, *дзеясл.* Хадзіць, стукаючы ботамі. *Чаго ты ботыіш пы хаце?* Маластоўка Краснап.

БО́ХАН, -а, *м.* Бохан, каравай хлеба. *Зыбралі ўвесь хлеб, ну хоць бы адзін бохан зыстаўся!* Ушакі Чэрык.

БО́ЦІК, -а, *м.* Памянш. ад бот. *Рыстыптаў боцікі танцуючы.* Багацькаўка Мсцісл. *Мыкар боты сібе купіў, ладныя боцікі.* Касцюковічы.

БО́ЧКА, -і, *ж.* Бочка. *За зіму дзьве бочкі агуркоў зьелі.* Барысавічы Клім.

БО́ЧЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад бочка. *Есьць у мяне длі бабусі ‖ Бочычка віна.* З нар. песні, М. Г. 2.

БРА́ГА, -і, *ж.* Брага. *Я ўжо зыварію брагу, думыю, што гарелка добрыя будзіць.* Слаўнае Мсцісл.

БРАДНІ́К, -а, *м.* Брэдзень, рыбацкая снасць. *З брадніком пайшлі ў рыбу.* Брылёўка Краснап.

БРАЗГО́ТКА, -і, *ж.* Бразготка. *Во найшоў сабе бразготку.* Палуж Краснап.

БРА́ЗКАЦЬ, *дзеясл.* Бразгаць. *Кінь бразкыць, ато і так у вушах зьвініць.* Добрае Мсцісл.

БРАК, -у, *м.* Брак. *Многа яблык зыгнілісь і пайшлі ў брак.* Арцёмаўка Міласл.

БРАКУВА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Не хапаць, бракаваць. *У мяне бракуе трох рублёў, ці не пазычыш ты мне да заўтра.* Мсціслаў. 2. [Грэбаваць], стараніцца, адносіцца з пагардай. *Ён мной бракуе.* Турэйск Краснап.

БРА́НЬНІК, -а, *м.* Збіральнік. *Браньнікі з вас плахея.* Хвёдараўка Краснап.

БРАТ, -а, *м.* 1. Брат. *Мой брат паехыў у лес.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Хадорка сыма ета зрабіла, а зьвярнула ны брата.* Палуж Краснап. 2. Зваротак да таварыша. *Здароў, брат! Як жывеш, браце?* Міцькаўшчына Мсцісл.

БРАТ І СЯСТРА́, *бат.* Браткі. *Кветкі брат і сястра пымыгаюць ад кашлю.* Барысавічы Клім. *Прыгожы цьвет — брат і сястра — палавіна сіній, палавіна жоўтый.* Пірагова Мсцісл.

БРА́ТКА, -а, *м.* Браце, зваротнае слова да таварыша. *Ты, братка, пычаў асувацца, айдзе твой румяніц падзеўся?* Пірагова Мсцісл. *Гэта, братка, аскомный кусочак.* Там жа.

БРАТО́ВА, -ай, *ж.* Братавая, жонка брата. *Брат паехыў ды бацькоў братовы.* Сохана Мсцісл.

БРАТУ́ЛЯ, -і, *м.* Брат, браток (ласкальна). *Братуля,— кажу я брату,— зьдзелый мілысьць, купі мне касу ны базары.* Арцёмаўка Міласл.

БРА́ТЧЫК, -а, *м.* Супольнік, палавіннік. *Сяргей са мной братчык: удваёх узялі ў варэнду.* Палуж Краснап.

БРА́ТЫВЫЯ, *прым.* Сяброўская, таварыская. *Гета кумпанія братывыя — адзін аднаго ні выдасьць.* Карабанава Касцюк.

БРА́ХАНЬКА, -а, *м.* Братухна (ласкальна). *Хадзі, браханька, дай мне каромісіл.* Бабынічы Мсцісл.

БРА́ХНІНЬКА, -а, *м.* Браточак (ласкальна). *Выручы з бяды, брахнінька: пазыч мне грошы.* Дубеец Касцюк.

БРАХУ́Н, -а, *м.* [Брахун], ілгун. *Брахун вядомэй — яго ў ступі тыўкачом ні пыймаіш.* Парадзіна Мсцісл.

БРАХУ́НЬНЯ, -і, *ж.* [Брахуха], абгаворніца. *Брахуньня гэтыя, ачырніла чылавека ні завошта.* Ушакі Чэрык.

БРАЦЕ́НЬНІК, -а, *м.* Дваюродны брат *Ён мне ні брат, а браценьнік, сын майго дзядзькі.* Палуж Краснап. *Браценьнік мне прыслаў тры кніжкі.* Добрае Мсцісл.

БРА́ЦІЦ, -цца, *м.* Брат. *Большый брацiц коніка сідлаіць, ‖ Меньшый брацiц Ёзычку навучаіць.* З нар. песні, М. Г. 10.

БРАЦІ́ШКА, -і, *м.* Меншы брат. *Брацішка мой яшчэ малэй — гадоў пітнаццыць усяго.* Арцёмаўка Міласл.

БРА́ЦКІЙ, *прым.* Братэрскі. *Ета брацкій паступык.* Высокі Бор Краснап.

БРА́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Брацца. *Апока век зы работу ні бярэцца.* Кокатава Мсцісл. *Досыць бібікі біць, нада за дзела брацца.* Гусарка Клім. 2. Стаяць за каго, паручацца. *Зы яго нільзя брацца, што ён ні ўкрадзіць; ікраз можа ета і ён украў.* Арцёмаўка Міласл.

БРАЦЬ, *дзеясл.* Браць. *Нада ўсёю дзярэўнюю абміркуваць, ці браць нам скот ны пыпас, ці не.* Арцёмаўка Міласл. *Вось твой асёлык дык добра бярэ касу.* Парадзіна Мсцісл.

БРЕ́ДЗІНЬ, -я, *м.* Брэдзень, рыбацкая снасць. *Лавілі мы рыбу, ды як выцігнулі бредзінь, глянулі — аж там кішыць малых рыбак.* Арцёмаўка Міласл.

БРЁХ, -а, *м.* Брахун. *Ой і брёх жа ты, Грішка, ты ж там ні быў і ні відзіў.* Высокі Бор Краснап.

БРІДА́, -ы, *ж.* Абрыда. *Атыйдзі ’д мяне, бріда, прічыпіўсь ік смыла.* Палуж Краснап.

БРІУНЯ́НЫЙ, *прым.* Драўляны [з бярвення]. *Уся наша дзярэўня бріўняныя, ні аднэй хаты камінный німа.* Багацькаўка Мсцісл. *Ны балоці вылажылі бріўняныю дарогу.* Палуж Краснап.

БРІХАТУ́Н, -а, *м.* Брахатун [брахун]. *Авечычка: мя-мя-мя, каровычка: му-му-му, ‖ А конічык — рігатун, а сыбачка — бріхатун.* З нар. песні, М. Г. 64.

БРІХА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Брахаць. *Нешта сыбакі пычалі бріхаць, ці ня выўка чуюць?* Шыркі Раснян. *Рузька! Дос брыхаць — гэта ж свае прышлі.* Ушакі Чэрык. 2. Ілгаць [маніць]. *Ён масьцір бріхаць; як пынавыдумляіць, дык радзіміц яго ведуіць, аткуль ён ета бярець.* Арцёмаўка Міласл. *Як ты добра брешіш.* Лапаціна Мсцісл. *Брешіць ён, ніпраўда.* Васілеўка Хоцім.

БРІХНЯ́, -і, *ж.* Няпраўда, лганнё [мана]. *Брiхня ета ўсё, што кажуць ны яго, ня можыць быць, штоб ета ён украў.* Арцёмаўка Міласл.

БРО́ВАР, -а, *м.* Бровар. *Пывязём здываць бульбу ў бровар.* Касцюковічы. *Пастроілі бровар, скора пычануць гарелычку гнаць.* Слаўнае Мсцісл.

БРО́ВЫ, -аў, *мн. л.* Бровы. *У Ганны бровы чорны, як вугаль.* Добрае Мсцісл.

БРОД, -у, *м.* Брод, неглыбокае месца ў рацэ. *Тут ні знойдзеш броду, усюдых глыбока.* Багацькаўка Мсцісл.

БРО́ДЗЬКІ, *прысл.* Уброд. *Бродзькі пірайшоў речку.* Палуж Краснап.

БРО́СІЦЬ, *дзеясл.* Кінуць. *Ай беленькій інберівый кырянёк, ‖ Кіну, брошу пыд татухный цірямок.* З нар. песні, М. Г. 49.

БРУД, -у, *м.* Бруд, гразь. *Абатры бруд ны твары.* Прусіна Касцюк. *На рецци пысьля дажджу бруд; разьві можна мыць плацьця. Табе ўжо брыцца пыра—усё ліцо зыраслo брудым.* Слаўнае Мсцісл.

БРУДА́, -ы, *ж.* Гразь. *У мяне ўжо на целі тыкая бруда — нада іці ў лазьню мыцца.* Слаўнае Мсцісл.

БРУДЗЬ, -і, *ж.* Гразь. *Брудзь засела ны бырадзе.* Хвёдараўка Краснап.

БРУ́ДНЫЙ, *прым.* *У мяне брудный хвартук, нада памыць.* Слаўнае Мсцісл. *Сарочка дужа брудна, нада зьмяніць.* Шумячы. *У старыка дужа брудныя анучы.* Крычаў.

БРУЖМЕ́ЛЬ, -ю, *м. бат.* Бружмель, жымаласць. *З бружмелю дзелыюць пруткі ў чыўнакі.* Хвёдараўка Краснап.

БРУЗДА́ЦЦА, *дзеясл.* Абліваццa ў час яды, неахайна есьці. *Бруздаецца дзіцёнык, вунь абліўся крупеняй.* Хвёдараўка Краснап.

БРУЗДЫ́ЛЬ, -я, *м.* Пухір на целе. *Ны руце бруздыль усхапіўся.* Хвёдараўка Краснап.

БРУЗЭЛЕВЫ́Й, *прым.* Светла-ружовы колер. *Марыся купіла хусту брузэлеву, на ўсё поле зіхаціць.* Багацькаўка Мсцісл.

БРУК, -у, *м.* Брук. *У горыдзі на вуліцы пыслан брук, пытаму і суха.* Слаўнае

Мсцісл. *На бызары брук папсуваўся.* Касцюковічы.

БРУКЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Брукаваць, масціць каменнем дарогу. *Кылі нас пачынаюць брукываць вуліцу.* Касцюковічы.

БРУ́КВА, -ы, *ж.* Бручка. *Ны гародзі добра вырысьлі гуркі і бруква.* Сохана Мсцісл.

БРУ́КСА, -ы, *ж.* Бручка. *Пуд бруксы каштуе двацыць капеік.* Малюшын Краснап.

БРУС, -а, *м.* 1. Брус, бэлька. *Еты брус трэба падперці, ато ён увагнуўся.* Касцюковічы. 2. Брус, кусок чаго-небудзь, што мае чатырохгранную форму. *Брус мыла пашоў ны бяльлё.* Палуж Краснап.

БРУС, -а, *м.* Абрус, настольнік. *Падай брус, трэба хлеб накрыць.* Малюшын Краснап. *Брус памыт слаўна.* Бялішчына Мсцісл.

БРУСО́К, -ска, *м.* 1. Брусок, камень вастрыць нож. *Пайстрі нож аб брусок.* Палуж Краснап. 2. Кавалак дзерава на чатыры канты, у граблях — частка з зубамі. *Брусок у граблях вельмі тоўсты.* Пухнава Раснян. *Васіль выцісаў бярозавы брусок у граблі.* Бязводзічы Мсцісл.

БРУСЬЛЕ́Т, -а, *м.* Бранзалет. *Дзеўкі брусьлеты на рукі пынадзівалі.* Высокі Бор Краснап.

БРУСЬНЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Цвярдзець, рабіцца цвёрдым. *У нашай каровы нешта пачынае вымя брусьнець.* Касцюковічы.

БРУСЬНІ́ЦА, -ы, *ж. бат.* Ягада брусніца. *Пайдзем сяньні ў брусьніцы, варэньне зварыць нада.* Пірагова Мсцісл. *Сёлета шмат брусьніц.* Касцюковічы.

БРУ́ЧКА, -і, *ж.* Бручка. *Баба нылупіла бручкі, морквы, репы, дык мы там елі і яшчэ бручку двору прінёс.* Арцёмаўка Міласл.

БРУШНІ́ЦА, -ы, *ж.* Брусніца. *У нашым лясу ёсьць усякія ягыды: брушніцы, чарніцы і суніцы.* Слаўнае Мсцісл.

БРУШНІ́ШНІК, -у, *м.* Бруснічнік, ягаднік брусніцы. *Брушнішніку многа, а брушніц німаніводныя.* Слаўнае Мсцісл.

БРЫВА́, -ы, *ж.* Брыво, броў. *Ён глядзіць нешта як коса: і вочы троху косы, і адна брыва ўверх, а другая ўніз неяк загнута.* Арцёмаўка Міласл.

БРЫВА́РНЯ, -і, *ж.* Бровар. *Во ў брыварні дзелыюць гарелычку, ня то што наша сівуха.* Слаўнае Мсцісл.

БРЫД, -у, *м.* 1. Сорам, брыда. *Брыду табе німа піряд людзьмі — так налізаўсь, што йці ня можыш.* Расна. 2. Дым у лазні, чад. *Тут брыду йшчэ поўна, трэ' было пачакаць троху мыцца, ато ўчадзім.* Гусарка Клім.

БРЫДА́, -ы, *ж. 1.* Брыда. *Ах ты, брыда!* Касцюковічы. 2. Неахайны чалавек. *Вунь брыда, дык брыда, вечна вымызыный ходзіць.* Слаўнае Мсцісл. *Пышла брыда нейкыя, абырвалыся, абшліпалыся.* Раздзел Мсцісл.

БРЫ́ДКА, *прысл.* 1. Гідка. *Ны цябе брыдка глядзець.* Пушкова Раснян. 2. Сорамна. *Брыдка ўспомніць, як ета ён мудрываў.* Старае Сяло Мсцісл. 3. Дымна, чадна. *У лазьні надта брыдка.* Кажамякіна Крыч.

БРЫЖ, -а, *м.* Востры край, руб [кант] чаго-небудзь. *Аб брыж стыла лоб ударыў.* Хвёдараўка Краснап. *Ліжаў ны самым брыжу карваці, аж бакі зыбалелі за ныч.* Парадзіна Мсцісл. *Ударыў бок аб брыж стыла.* Касцюковічы.

БРЫЖЫ́, *мн. л.* Брыжы, прышытая складкамі стужка матэрыі да адзежыны. *Прышыла брыжы і на рукавы, і кылі шыі, і ўнізе.* Ушакі Чэрык.

БРЫ́ЖЧЫК, -у, *м.* Самае буйнае і важкае зярно. *Атбяры з жыта самыга брыжчыку на семя, каб ладныя радзіла.* Слаўнае Мсцісл.

БРЫ́ЗКА, -і, *ж.* Пырска, капля. *Бачыш, як пілёхаіцца, ажно брызкі на міне ліцяць.* Ушакі Чэрык. *Ня едзь хутка пы гразі, ато брызкі ліцяць.* Касцюковічы.

БРЫ́ЗКАЦЬ, *дзеясл.* Пырскаць, *Ні брызкай ты на міне, і так уся мокрая стала.* Ушакі Чэрык.

БРЫ́ЗКЫЎКА, -і, *ж.* Садовая лейка, палівалка. *Вазьмі брызкыўку, ды палі гряды.* Слаўнае Мсцісл.

БРЫК, *выкл.* Брык, азначае раптоўнае апусканне. *Устаў з кырваці, ды зноў брык туды ж.* Хвёдараўка Краснап.

БРЫ́КА, -і, *ж.* Спецыяльна прыстасаваны для возкі сена і саломы воз. *Падзі запражы брыку ехыць за сеным.* Людагошч Мсцісл.

БРЫКА́ЦЦА, *дзеясл.* Брыкацца, біць заднімі нагамі (аб конях). *Ня йдзі блізка лі каня — ён брыкаецца.* Касцюковічы.

БРЫКУ́Н, -а, *м.* Вясёлы, лёгкадумны чалавек. *Во такі ўжо брыкун, вешна хахочыць.* Слаўнае Мсцісл.

БРЫКУ́ХА, -і. *ж.* Вясёлая, лёгкадумная жанчына. *Прішла брыкуха, усіх рызьвісялілыла то скокым, то бокым—ні пысядзіць ны адным месьці.* Старына Мсцісл.

БРЫКЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Бракаваць, забракоўваць. *Етымі будуць брыкываць купцы, пытаму што яны старыя.* Арцёмаўка Міласл.

БРЫЛЬ, -я, *м.* Мужчынскі капялюш. *Касьцюм на ім новый, брыль сылымяныэй — чым ня хлопец?* Пірагова Мсцісл. *Ну й моду пынялі нашы мужчынкі — ужо чэцьвера ў брылях ходзяць.* Барысавічы Клім. *У нас брыль носіць толькі поп.* Бяседавічы Хоцім. *Надзень гэты брыль, ён табе надта ідзе.* Царковішча Касцюк.

БРЫ́ЛЬШЧЫК, -а, *м.* Майстар, што папраўляе [рамантуе] чыгуны, скавароды. *Сяньні нам брыльшчык скывраду ладзіў.* Роськаў Хоцім.

БРЫ́НДА, -ы, *ж.* 1. Гультай, валацуга. *Ты, брында, толькі і ведаіш, што дрынды-брынды біць.* Хвёрдараўка Краснап. 2. Шапавальская прылада, якою расчэсваюць шэрсць. *Етыя шапывалы ходзяць з брындамі.* Новыя Капачы Мсцісл.

БРЫ́НДЖЫ, -аў, *мн. л.* Прышытая істужка з той жа матэрыі, што і сукенка, толькі з напускам, зборкамі. *Іна пасьці што шшыла паневу, толькі нада було прішыць брынджы ўнізу.* Арцёмаўка Міласл.

БРЫНДЗЮ́ЛЬКА, -і, *ж.* Аборка на спадніцы. *Твыя спадніца з брындзюлькамі?* Пушкова Касцюк.

БРЫ́НДЫ, -аў, *мн. л.* Шырокія фалды, складкі. *Мае рукавы ныстыяшчыя брынды, як у пупа.* Слаўнае Мсціcл. *Матка прiцапіла ў плацьця брынды.* Шумячы. *Блузка пашыта з брындамі.* Бель Мсцісл. *Уго, якія брынды ў тваім плацьці!* Пушкова Қасцюк.

БРЫ́НДЫ БІЦЬ. Хадзіць без ніякіх занятках. *До табе брынды біць, ты б штонебудзь рабіў.* Нізкі Қасцюк. *Прівык брынды біць ны дзяреўні, а ды работы — ні-ні.* Слаўнае Мсцісл.

БРЫ́НДЫЦЬ, *дзеясл.* Брындаць, нічога не рабіць, хадзіць без занятках. *Табе во, толькі брындыць пы дзяреўні з гармоньню, а ды работы цябе німа.* Слаўнае Мсцісл. *Дос табе брындыць бяз дзела, схадзі ты хуць у лес лык ныдзярі.* Арцёмаўка Міласл. *Чаго брындыіш біз тоўку? Ідзі коні пасьвіць.* Парадзіна Мсцісл.

БРЫ́НЖЫ, -аў, *мн. л.* Брынджы, зборкі. *Сыбака, як учапіўсь, дык усе брынжы абырваў.* Азерцы Клім.

БРЫ́НКЫНЬНЯ, *-я, н.* Брынькание, ігра на струнным музычным інструменце без смычка, ударамі. *Аж тошна, братка, ад твайго брынкыньня, кінь ты гэту былыбайку.* Добрае Мсцісл.

БРЫ́НКЫЦЬ, *дзеясл.* Брынкаць, няўмела іграць на струнным музычным інструменце. *Раз ня ўмееш іграць, дык і брынкыць кінь.* Қасцюковічы. *Ён іграць ня ўмеіць, ён толькі так брынкыіць, балуіцца.* Арцёмаўка Міласл.

БРЫСЬ, *выкл.* Псік (вокрык на ката). *Брысь! Чаго ты ўзьбіўся на стол.* Пячары Қасцюк. *А брысь, коцік, у лясок! ‖ Прынясі Юльцы пысок.* З нар. песні, М. Г. 146.

БРЫ́ТВА, -ы, *ж.* Брытва. *Нож, як брытва, атыйстраны.* Ушакі Чэрык.

БРЫХА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Брахаць. *Рузька! Дос брыхаць — гэта ж свае прышлі.* Ушакі Чэрык. 2. Ілгаць [маніць]. *Датуль гывары, датуль брыхай, пакуль абсекся.* Сохана Мсцісл. *Годзі табе брыхаць, усё 'дно ні паверюць.* Беразяк Краснап.

БРЫХНЯ́, -і, *ж.* Брахня, ілганне [мана], няпраўда. *Ня вер ты, брыхня ета — ніколі нічога ні было.* Парадзіна Мсцісл. *Брыхня ўсё гэста ны дзяўчыну, іна тут ніпавінна.* Ушакі Чэрык.

БРЫ́ЦА, -ы, *ж. бат.* Қурынае проса — зелле, што расце на градах. *Брыца — сорныя трава, яе нада палоць.* Пірагова Мсцісл.

БРЭ́ДЗІНЬ, -дня, *м.* Брэдзень. *Узялі брэдзінь і пайшлі ў рыбу.* Хвёдараўка Краснап. *Бяры брэдзінь, пайдзем на рыбу.* Крычаў.

БРЭ́ДНІК, -а, *м.* Брэдзень. *Хлопцы пашлі лавіць рыбу брэднікум.* Расна.

БРЭХ, -у, *м.* Сабачы брэх. *Дзе-та чуецца брэх сыбак.* Қасцюковічы.

БРЮ́КВА, -ы, *ж.* Бручка. *Ны гародзі брюква ікая вырысла.* Высокі Бор Краснап.

БРЮ́КША, -ы, *ж.* Бручка. *Ны грідах вырісла быльшая брюкша, пряма-ткі пы гыливе.* Слаўнае Мсцісл. *У нас сёліта быльшая брюкша.* Цёмны Лес Расням.

БРЮ́ХАТЫЙ, *прым.* [Брухаты], тоўсты, з вялікім жыватом. *Ты стаў пузатый, што баба брюхатыя.* Высокі Бор Краснап.

БРЯ́ЖКА, -і, *ж.* [Спражка], бляшка ў папружцы, поясе. *У маім ремні дык дужа бліскучыя бряжка.* Слаўнае Мсцісл.

БРЯЗГО́ЛКА, -і, *ж.* Бразготка. *Дзіцёнку зыбуўляцца нада, якея-небудзь цацкі, брязголкі купіць нада.* Арцёмаўка Міласл.

БРЯ́ЗКЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Бразгаць. *Годзі табе брязкыць касою—папорціш ішчэ.* Цёмны Лес Раснян. 2. Пераносна — гаварыць абы-што. *Людзі брязкыюць языкамі, а я сам ня бачыў.* Гібалы Қасцюк.

БРЯ́ЗНУЦЬ, *дзеясл.* Бразнуць, кінуць з сілаю, стукнуць. *Унісла дровы, ды як брязнула іх кыла печы, аж чуць ні аглушыла.* Арцёмаўка Міласл. *Як брязнуў міску 'п пол, дык і чыряпкоў ні зьбярэш.* Хвёдараўка Краснап.

БРЯ́К, *выкл.* Брык, хлоп. *Дзіцёнык бряк аб землю!* Палуж Краснап.

БРЯХЛІ́ВЫЙ, *прым.* [Брахлівы], сварлівы ды яшчэ лгун. *Ета ўжо такей бряхлівый чылавек, абы-што яму ліскытаць ізыком.* Слаўнае Мсцісл.

БРЯХУ́Н, -а, *м.* Брахун, лгун. *Бряхун, ты што сплетнічыіш пы дзяреўні.* Слаўнае Мсцісл. *Ягорій Пынас такей бряхун — слова ні скажыць, штоб ні збріхаць.* Высокі Бор Краснап.

БУ́БА, -ы, *ж.* Гарох (дзіцячае). *Ня плач, дзетка, дам табе бубы.* Сохана Мсцісл.

БУ́БАК, -а, *м.* Байбак, круглы, як куля [шар]. *Кычаіцца ны масту, як бубак.* Хвёдараўка Краснап.

БУБА́ШКІ, -шык, *мн. л.* Пячэнне. *Ныпячы сяньні бубашык.* Тур'я Чэрык.

БУ́БІН, -бна, *м.* Бубен. *У яе ны свадзьбе ігралі скрыпка, гармонь і бубін.* Пірагова Мсцісл. *Я вазьму скріпку, а ты бярі бубін і пойдзем іграць вясельля.* Бяседавічы Хоцім. *Славін бубін зы гарою.* Б. Хутары Краснап.

БУ́БКА, -і, *м.* Бубка, ягадка. *Вазьмі ж ты з усіх ягыд хуць адну бубку ў рот.* Слаўнае Мсцісл. *Буйную бубку суніцы зьела. Ныбрала на кохту сітцу ў бубычкі.* Палуж Краснап.

БУ́БЛІК, -а, *м.* Маленькі абаранак. *Купі ты мне вясла бублікый.* Слаўнае Мсцісл. *Мама, прынясі мне з бызару бублікыў.* Қасцюковічы.

БУ́БНА, -аў, *мн. л.* Бубны, масць карт. *Мае козыры будуць бубна.* Бяседавічы Хоцім.

БУБНЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Гаварыць невыразна, сабе пад нос. *Стырая ўвесь дзень да ночы нешта бубніць сабе пад нос.* Парадзіна Мсцісл. *Бацька дужа любіць бубнець, бубніць цэльный дзень, калі што ні так зробіш.* Палуж Краснап.

БУБНО́ВЫЙ, *прым.* Бубновы. *Бубновэй валет піковыю дзісятку ня б'ець.* Бяседавічы Хоцім.

БУБНЯ́, -і, *мн. л.* Бубны, масць карт. *Ды мяне адна бубня ідзець—хоць бы адна карта другой масьці прішла.* Б. Хутары Краснап.

БУ́БЫ, -аў, *мн. л.* Бубны, масць карт. *Сяньні будуць бубы козырім. Нечым хадзіць — давай з бубый.* Клясін Краснап.

БУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Бываць, быць. *Вясна, дзе бувала? ‖ У лесі зімувала.* З нар. песні. Мсціслаў.

БУГА́Й, -я, *м.* Бугай, бык. *У стадзе кароў ходзіць адзін бугай.* Юр'евічы Клім.

БУГО́НЬ, -і, *ж.* Загон, вузкая палоска заворанай зямлі. *Я да абеда трі бугоні ўспыхаў і чацвертую пычаў, ды разы два праехуў.* Арцёмаўка Міласл.

БУГУМІ́ЛА, -ы, *м.* Здаровы, сімпатычны чалавек. *Бугуміла ты! Усіх дзевак зводзіш сваім хыраствам.* Хвёдараўка Краснап.

БУГУ́Н, -а і -у, *м. бат.* Багун, багульнік балотны. *Бугун бяруць ат клапоў.* Хвёдараўка Краснап. *Мы хадзілі ў мох пы ягады, пы дурніцы, дык нам ат бугуну гылыва зыбалела, аж рваць нас пычало.* Арцёмаўка Міласл.

БУ́ДА, -ы, *ж.* Буда, пакрыцце ад дажджу над возам. *Бацька зрабіў буду ныд калёсымі і паехыў у Мугулёў.* Маластоўка Краснап.

БУДАЎНІ́ЦТВА, -а, *н.* Будаўніцтва. *Рыспычаў ты будаўніцтва на цэлае лета.* Касцюковічы.

БУДЗЕ́НІК, -а, *м.* Будзільнік, той, хто будзіць. *Дзіцёнык — мой будзенік, ні разу ні засплюся.* Тур'я Краснап.

БУДЗЁННЫЙ, *прым.* Будзённы, не святочны. *Я ў грібы редка хаджу: у будзённый дзень некылі, а ў сьвятый дзень треба аддыхнуць.* Гібалы Касцюк.

БУ́ДЗЕНЬ, *прым.* Будзённы дзень. *Сёньня будзень дзень, а заўтры празьнік.* Касцюковічы.

БУ́ДЗІЦЬ, *прысл.* Досыць, даволі. *Будзіць зь цябе і етыга.* Кокатава Мсцісл.

БУДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Будзіць. *А раней таго кывалеўна ўстала, ‖ Кывалёў будзіла. ‖ Устаньце, кывалі, куйця тыпары.* З нар. песні, М. Г. 53. *Ні нада яго будзіць, ніхай сьпіць.* Цёмны Лес Раснян.

БУ́ДКА, -і, *ж.* Будка, маленькая хатка, робіцца ў садзе летам. *Я спаў у садзе ў будцы.* Касцюковічы.

БУДО́ЎЛЯ, -і, *ж.* Будоўля, усе гаспадарчыя будынкі. *У цябе харошыя будоўля.* Дубеец Касцюк.

БУДЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Будаваць. *Трэба вам ужо новую хату будываць.* Касцюковічы. *Ды два брахнінькі гулялі, ‖ Яны брусьсійкі цісалі, ‖ Сьвятлічыньку будывалі.* З нар. песні, М. Г. 134.

БУДЫ́НАК, -нка, *м.* Будынак. *У нашай вёсцы етый ноччу пажар быў: адзін будынык згарэў.* Шумячы. *Гэта твой новый будынык? Добрыя хата!* Пушкова Касцюк.

БУЗА́, -ы, *ж.* 1. Падонкі, мут, асадак на дне. *Якей ета алей, адна буза зыстылася.* Хвёдараўка Краснап. 2. Азаддзе [пазаддзе]. *З таку ўсё ўбралі, зыстылась толькі буза розныя з-пад веілкі.* Арцёмаўка Міласл. *Сыбраў усю бузу і прівёз за харошыя зярно.* Цёмны Лес Раснян.

БУЗГАРО́К, -рка, *м.* Узгорак. *Сходзім на етый бузгарок.* Палуж Краснап.

БУЗГО́РАК, -а, *м.* Узгорак. *На бузгоріку нічога ні расьцець.* Маластоўка Краснап.

БУЗУВА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Тускліць, цьмяніць. *Нідыжданьня, бел-малойчык, нідадыхыньня, ‖ Каб я сваe белы ручынькі мырацъ стала, ‖ Каб я сваe златы персьні бузуваць стала.* З нар. песні, М. Г. 84. 2. Бузаваць, біць, лупцаваць. *Ён яго ік пычаў бузываць вяроўкыю, дык аж страшна.* Брылёўка Краснап.

БУЗЯ́НЫ, *прым.* Засмечаны ўсякім азаддзем. *Ікая бузяныя грачыха, нада падсіваць.* Сутокі Мсцісл.

БУ́Й, буя, *м.* Месца, адкрытае для ветру. *Школа стаіць на самым бую, таго й халодна.* Палуж Краснап.

БУ́ЙВЫЛ, -а, *м.* Буйвал. *Буйвыл дужа любіць у вадзе ліжаць.* Палуж Краснап.

БУ́ЙНА, *прысл.* Буйна. *У гэтым годзе грэчка буйна ўрадзіла.* Касцюковічы. *Ну й буйна ж ты ныкрышыла бульбу — варыцца доўга будзіць.* Ушакі Чэрык.

БУЙНЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Буйнець, расці, павялічвацца. *Мыя ныга стала буйнець, што бацінык ня лезіць.* Слаўнае Мсцісл. *У нашай вёсцы скот пачынае буйнець.* Касцюковічы.

БУ́ЙНЫ, *прым.* 1. Буйны, вялікі. *Буйныя жыта — адзін адбрызык.* Хвёдараўка Краснап. 2. Непакорны, неўгамонны. *А ў чацьвер я с пахмельлійка ліжала, ‖ А ў пяцінку буйна голыва балела.* З нар. песні, М. Г. 45.

БУ́ЙНЫСЬЦЬ, -і, *ж,* Буянства. *Ні давядзі бог такую буйнысьць — нікому ні ўступіць, зарыз у морду.* Добрае Мсцісл.

БУК, -у, *м.* Бочка, у якой заліваюць лугам (шчолакам з попелу) брудную бялізну. *Кладзі бяльлё ў бук.* Маластоўка Краснап.

БУКАВІ́ЦА, -ы, *ж.* Аплявуха. *Ён мне добрую паднёс букавіцу, аж у вушшу зазьвінела.* Касцюковічы.

БУ́КВА, -ы, *ж.* Літара. *Атчырквыць нада ўсі тыя словы, якія пычынающца з буквы «д».* Бяседавічы Хоцім.

БУКВА́РЬ, -я, *м.* Буквар, лемантар. *Етый маліц яшчэ першы год у школу ходзіць, яшчэ букварь толькі чытаіць.* Арцёмаўка Міласл. *Чаму твой букварь так патрёпын?* Шарэйкі Касцюк.

БУКО́НКА, -і, *ж.* 1. Аканіца. *Зачыні буконку, ато веція вакно паб'ецъ.* Бяседавічы Хоцім. *На ноч трэба зачыніць буконкі.* Машавая Бялынкав. 2. Дошка-дзверцы, якою засоўваецца аконная прораз у лазні. *Васіль, зьдзелый ты буконку ў лазьню, ато праз акно сыбакі лазяць.* Гібалы Касцюк.

БУКО́НЬНІЦА, -ы, *ж.* Аканіца. *Веціp атырваў буконьніцу і вакно разьбіў.* Брылёўка Краснап.

БУ́КСА, -ы, *ж.* 1. Букса, жалезная ўстаўка ў канец калодкі [ступіцы] каляса. *Букса ў кылясе зьезьдзілысь, новую нада ўставіць.* Цёмны Лес Раснян. 2. Бручка. *У нас сёліта зырадзіла букса, дык пы гылаве, і салодка.* Бяседавічы Хоцім.

БУЛА́НЫЙ, *прым.* Буланы, шэра-жоўты, палавы. *Купіў кыня буланыга.* Хвёдараўка Краснап.

БУЛДАВЕ́ШКА, -і, *ж.* Палка з утаўшчэннем на канцы. *Ён мяне надта балюча*

*ўдарыў булдавешкый.* Касцюковічы. *Пыдай мне булдавешку патоўч бульбу.* Слаўнае Мсцісл.

БУЛДО́ВЫЧКА, -і, *ж.* Утаўшчэнне, пупышка на дрэвах. *На дрэвах булдовычкі ўжо пыспускаюцца.* Маластоўка Краснап.

БУЛДО́ЎКА, -і, *ж.* Лілея вадзяная. *Нарві мне булдовык жоўтых і белых.* Зоры Чэрык.

БУЛДЫ́РЬ, -я, *м.* 1. Бурбалка на вадзе. *Пы вадзе йдуць булдырі — дождж зацяжны будзіць.* Машавая Бялынкав. 2. Вадыр, пухір на целе ад апёку. *Во ўлезь у крыпіву, абстрыкыйся, дык пойдуць па целе булдыры.* Пірагова Мсцісл. 3. Бугор пескавы. *Абклалі налогым і мой булдырь, а што зь яго карысьці, калі нішто на ём ні расьцець.* Лешчынка Мсцісл.

БУ́ЛКА, -і, *ж.* [Булка], бохан, баханка хлеба. *Бярі хлеба цэлую булку, бо хто ведаіць, колькі ты там будзіш, каб хапіла.* Дубеец Касцюк. *Мы зьелі арцельлю булку хлеба і другую пычалі.* Арцёмаўка Міласл.

БУЛТЫ́Х, *выкл.* Бултых. *Сталі мы ўсі на берызі, а Мішка бултых у ваду, чуць вытышчылі.* Слаўнае Мсцісл.

БУЛУЛА́ЙКА, -і, *ж.* Балалайка. *Янка хырашо іграіць ны булулайкі.* Бяседавічы Хоцім.

БУ́ЛЫЎКА, -і, *ж.* Вежа на царкве, купал. *А ны гаре-горцы цэркыўка, ‖ А на цэркыўцы булыўка, ‖ А на булыўцы золыт крыж.* З нар. песні, М. Г. 81.

БУ́ЛЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад булка. *Цётка пікла булкі і мне ’дну булычку дыла.* Высокі Бор Краснап.

БУ́ЛЬБА, -ы, *ж.* Бульба. *Схадзі ў погрыб, бульбы прынясі.* Цёмны Лес Раснян. *Вось сёліта бульба вілікыя пырысла.* Ушакі Чэрык. *Хлеб ды бульба — першыя яда ў дзярэўні.* Пірагова Мсцісл. *Ныскрабі бульбы, сёньні бліны будзем пякчы.* Барысавічы Клім.

БУЛЬБО́ЎНІК, -у, *м.* Бульбоўнік, бульбянае сцябло. *Ныжала бульбоўніку ды дыла карові.* Палуж Краснап. *Пасох ужо бульбоўнік, бульбу кыпаць можна.* Цёмны Лес Раснян.

БУЛЬБЯ́НІШЧА, -а, *н.* Поле, на якім расла бульба. *Бульбоўнік нада сыбраць з бульбянішча ды прівезьці двору.* Высокі Бор Краснап.

БУЛЬБЯ́НЬНЕ, -я, *н.* Бульбянішча. *Гэта бульбяньне ўжо абгліданыя, ты стынавісь далей* (калі бульбу пераворваюць). Пірагова Мсцісл.

БУНТ, -у, *м.* Бунт. *У 1905 годзе ў нас быў у мястэчку бунт сярод шаўцоў: усі кінулі працу.* Касцюковічы.

БУНТАНІ́НА, -ы, *ж.* Блытаніна. *Ай, узноў пышла бунтаніна ў іх — ніхто ні ведыіць, каму ісьці ў поля, а каму дома зыстывацца.* Ушакі Чэрык.

БУНТУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Перашкаджаць, перабіваць пры размове [збіваць]. *Ні бунтуй, тут дзела ёсьць.* Нова-Ельня Краснап.

БУРА́К, -а, *м.* Бурак. *Бульбу й буракі разым ссып, а моркву асобна.* Старае Сяло Мсцісл.

БУРБО́ЛКА, -і, *ж.* Бурбалка, пухір. *Вой, руку абварыла! Палянь, як скора бурболкі пыўсхапілісь.* Ушакі Чэрык.

БУ́РБЫЛКА, -і, *ж.* Цацка, зробленая з косткі. Робіцца так: у костцы пасярэдзіне свідруецца дзірка, ў якую зацягваюць нітку, потым накручваюць нітку і расцягваюць яе рукамі, нітка раскручваецца і прымушае круціцца костку. Костка гудзе, бурчыць. *Зьдзелый мне бурбылку.* Хвёдараўка Краснап.

БУРДА́, -ы, *ж.* Нясмачная яда. *Ета ні крупеня, а нейкыя бурда, хто яе будзіць есьць.* Слаўнае Мсцісл.

БУРДЗІ́ЛА, -а, *м.* Высокі тоўсты чалавек. *Во бурдзіла, аршыны тры ростым будзіць, а тоўсты, як бочка.* Слаўнае Мсцісл.

БУРДУЛЁК, -а, *м.* Бурбалка, *Схываўсь пыд ваду, адны бурдулькі наверсі пашлі.* Парадзін Мсцісл. *Дошч будзіць зацяжнэй — бурдулькі пу вадзе плывуць.* Восаў Краснап.

БУРДУ́ЛЬ, -я, *м.* Вадыр, пухір. *Аппёк руку, дык во йкей бурдуль усхапіўсь.* Палуж Краснап.

БУРДЫ́К, *выкл.* Бух, шась. *Ішоў пы кладычкых, апшаснуўся ды ў ваду — бурдык!* Кокатава Мсцісл.

БУРДЫ́ЛІЦЦА, *дзеясл.* Пеніцца. *Бач, як бурдыліцца выда ў млыне, аж калёсы белыя пыстали ад пены.* Ушакі Чэрык.

БУРДЫ́ЛЬ, -я, *м.* Бурбалка, пухір. *Пысьля дождж у па лужынкых бурдылі скачуць, кажуць, што ета к нінасьцю.* Слаўнае Мсцісл. *Дзеці, дос вам дзьмуць бурдылі, толькі мыла псуіцё!* Ушакі Чэрык. *Рукі і цела ўсё ў бурдылях.* Зоры Чэрык.

БУРДЫ́ХНУЦЦА, *дзеясл.* Упасці. *Іна як бурдыхнулась носым у гразь, дык во было хохыту.* Куркаўшчына Мсцісл.

БУРО́ІЦЬ, *дзеясл.* Гаварыць без толку. *Ён буроя, што пупала.* Хвёдараўка Краснап.

БУРТ, -а, *м.* Капец. *Каб ні пыгнілі сёліта нашы кардоплі ў бурце. Летысь наш бурт быў хырашо і саломыю накрыт і зямлёю, дык нашы цэлы былі, а ў суседа дачыста памерзьлі.* Арцёмаўка Міласл.

БУРЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Бурчаць, бурчаннем паказваць гнеў [нездавальненне]. *Яна ўсё бурчыць нешта.* Іванаўка Хоцім.

БУРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Бурыць, разбурваць, разбіраць будынак. *Ня трэба было бурыць хаты, яшчэ можна ў ёй жыць.* Палуж Краснап.

БУРЭ́НІЦЬ, *дзеясл.* Мачыцца. *Выйшыў зы хату і пусьціў бурэніць.* Кокатава Мсцісл.

БУ́РЯ, -і, *ж.* Бура, вялікі моцны вецер. *Буря ў лесі много древа пыламіла.* Большая Багацькаўка Мсцісл.

БУСА́ЦЬ, *дзеясл.* Буйна весяліцца, п'янстваваць. *Гуляла, бусала сьвякрова ў піру.* З нар. песні. Нова-Ельня Краснап.

БУ́СЕЛ, -сла, *м.* заал. Бусел, бацян. *Бусел зьвіў гняздо на гумне. Ужо бусел прыляцеў — цёпла будзіць.* Кажамякіна Крыч.

БУ́СЕНЬКІ, -аў, *мн. л.* Пацалункі. *Ну, бусенькі, дзетка, маму.* Слаўнае Мсцісл.

БУ́СЫ, -аў, *мн. л.* Каралі, пацеркі, бусы. *Цётка купіла мне бусы.* Шумячы.

БУ́СЬКІ, -аў, *мн. л.* Пацалунак. *Ну, дзетка, буські сваю маму ў лоб, ато жалець ня буду.* Слаўнае Мсцісл.

БУТУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Мардавацца, выбівацца з сіл. *Бутуваўся, бутуваўся, пакуль давёў да дому свайго п'янага дзядзьку, аж сарочка мокрыя стала.* Куркаўшчына Мсцісл.

БУТЫ́ЛКА, -і, *ж.* Бутэлечка, пляшачка. *Пынылівай вады ў бутылкі і пыставій ны сталє.* Шарэйкі Касцюк.

БУТЭ́ЛКА, -і, *ж.* Бутэлька, пляшка. *У ету бутэлку лезіць толькі адзін хунт красіну.* Слаўнае Мсцісл.

БУТЭ́ЛЬКА, -і, *ж.* Бутэлька, пляшка. *Атбій рыльца ў бутэльцы.* Мсціслаў. *Калі будзеш дуць у пустую бутэльку, то там будзіць атгуківыцца, як у званы.* Пірагова Мсцісл.

БУУТА́ЦЦА, *дзеясл.* Баўтацца, таўчыся, перашкаджаць. *Ні буўтайся ты пад рукамі.* Васілеўка Хоцім.

БУХА́НКА, -і, *ж.* Баханка, бохан, каравай хлеба. *Пазычце-ка вы мне буханку хлеба, я зайтры сьпяку — тады аддам.* Пірагова Мсцісл.

БУЦІ́ЯН, -а, *м. заал.* Бусел, бацян. *Прылящеў буціян, ну, цяпер вясна.* Тур'е Чэрык.

БУ́ЦЯН, -а, *м. заал.* Бусел, бацян. *Пы балоту ходзіць буцян.* Гібалы Касцюк. *Вясна ўжо, прылящеў буцян.* Баеўка Крыч. *Для буцяна пылажылі ны бярозу старую бырану.* Юшкавічы Раснян. *Буцян, буцян, доўгі нос! Куды цябе чорт панёс?* Кокатава Мсцісл.

БУЦЯ́НА, -ы, *ж.* Бацян. *Буцяна зьвіла гняздо.* Расна.

БУ́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Залівацьбялізну лугам [настоем з попелу]. *Нада бучыць сяньні плацьця.* Маластоўка Краснап.

БУШМА́К, -а, *м.* Башмак, абутак. *Надзеў бушмакі с калошымі і ходзіць, ік барон.* Касцюковічы.

БУЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Бусаваць [буйна весяліцца, п'янстваваць]. *Ён гуляя, буяя.* Галынец Краснап.

БШЧАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Абняць. *Хлопец крэпка бшчапіў дзеўку і пуцулуваў.* Палуж Краснап.

БЫ, *часц.* Бы. *Ты думай, як бы абіспечыцца к зіме драўмі.* Пірагова Мсцісл.

БЫВАЦЬ, *дзеясл.* Бываць, быць не адзін раз. *Абыдзень у горадзі бываю.* Мсціслаў. *Як быў холыст, усюдых бываў, а як ababіўся, сядзіць кыла жонкі і ні вылазіць з хаты.* Слаўнае Мсцісл. *Ababкі растуць пу бярезьніку, і многа іх бываіць посьлі даждҗу.* Бяседавічы Хоцім.

БЫГАБО́ЙЛІВЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Багабойнасць. *У цябе німа анінкай быгабойлівасьці.* Касцюковічы.

БЫГА́ТА, *прысл.* 1. Багата [у дастатку]. *Няхай жывуць быгата.* Дзіснакіта Мсцісл. 2. Шмат, многа. *У яго быгата грошый. У клюбі людзей быгата.* Горка Краснап.

БЫГА́ТЫЙ, *прым.* Багаты. *А ў горыдзі на рынку п'ець худоба гарелку, а быгатый дзівіцца, чым худоба жывіцца.* З нар. песні, М. Г. 85. *Яўген дужа кысманогій, як відаць, быгатым будзя.* Палуж Краснап.

БАГАТЫ́РЬ, -я, *м.* Багацей. *Гардзей — багатырь на ўсё сіло: быгачы яго нет.* Маластоўка Краснап.

БЫГАТЫ́РЬКА, -і, *ж.* Багацейка. *Ты ж быгатырка, у цябе ўсяго даволі.* Царковішча Касцюк.

БЫГАЦЕ́Й, -я, *м.* Багацей, багаты чалавек. *Міхалка на ўсю дзяреўню быгацей, усяго хыпаіць.* Слаўнае Мсцісл.

БЫГА́ЦЬЦЕ, -я, *н.* Багацце. *Няма ў мяне ніякыга быгацьця — я бедны.* Касцюковічы.

БЫГА́Ч, -а, *м.* Багач, кулак. *У нашыга быгыча вельмі моцны парыбык.* Міцькаўшчына Мсцісл.

БЫГДА́Й, *прысл.* Бадай, каб. *Быгдай ты ськів!* Пушкова Касцюк. *А быгдай бы цібе чэрці ўзялі — во пірыпужаў!* Ушакі Чэрык. *Быгдай села калодыю!* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

БЫГЛА́Й, -я, *м.* Гультай, абібок. *Мой Міхась цігаіцца, як быглай, хуць ты зь ім ды і дзелый, што хош.* Добрае Мсцісл.

БЫГЫЎНЯ́, -і, *ж.* Бажніца, месца, палічка для абразоў. *Быгыўня длі таго і дзелыіцца, штоб ны яе іконы ставіць.* Бяседавічы Хоцім. *Як прыгожа ўвыбрана быгыўня!* Хвёдараўка Краснап.

БЫДА́Й, *часц.* Бадай, каб. *А быдай ты згарэў, во напужаў!* Старае Сяло Мсцісл. *Быдай цябе маланка!* Зоры Чэрык.

БЫДЗЯ́ГА, -і, *ж.* 1. *бат.* Бадзяга. *Пы калодым, на дне ў возіры расьцець быдзяга, вазьмі яе высушы, і тады можна ныціраца ат рыматызму.* Хвёдараўка Краснап. *Кылі ногі ломюць, дык нада напаріць быдзягі, што расьцець кыла речкі, ды церць ею ногі.* Арцёмаўка Міласл. *Нарві ў возірі быдзягі ды натрі ёю ногі ат ламоты.* Слаўнае Мсцісл. *Дыстань быдзягі, ныпар яе й натрісь хырашо — увесь боль прайдзець.* Маластоўка Краснап. 2. Валацуга. *Уноў нейкі быдзяга ідзець.* Добрае Мсцісл.

БЫДЗЯ́К, -а, *м. бат.* Бадзяк агародны і бадзяк польны. *Быдзяк наўродзе дзядоўніка, вісокій, калючый куст, толькі калючкі драбней.* Пірагова Мсцісл.

БЫДЗЯ́КА, -і, *м.* [Той, хто бадзяецца, валацуга]. *Еты быдзяка мне ўжо ныдаеў — быдзяіцца пы хатых.* Касцюковічы.

БЫДЗЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Бадзяцца, цягацца, валачыцца. *Зь яго ўжо толку ня будзіць, бо ўжо пычаў быдзяцца ат хаты ды хаты.* Добрае Мсцісл. *Жыві ты ў мяне, до табе быдзяцца.* Касцюковічы.

БЫДЛЁ, -я, *н.* Быдла [скаціна], рагатая жывёліна. *Надта худа яго быдлё.* Касцюковічы.

БЫДЛЯ́ЦІНА, -ы, *ж.* 1. Худая жывёла. *Пысьля зімы быдляціна нядужыя, ледзь ногі цігаіць.* Зоры Крыч. 2. Худы, нягеглы чалавек. *За нейкыга быдляціну пыйшла.* Палуж Краснап.

БЫДЫЛЬЛЁ, -я, *н.* Бадылле. *Быдыльлё ета сыбяры ў калёсы, зывязём двору, там авечкі зыядзяць.* Клясін Краснап.

БЫЖАВО́ЛІЦЬ, *дзеясл.* [Непамерна многа хацець]. *Быжаволіць хлопіц німаведыма чаго.* Горкі Краснап.

БЫЖАВО́ЛЬЛЯ, -я, *ж.* Бажаволле, непамернае жаданне. *Быжавольля ў цябеніпамерныя.* Горкі Краснап.

БЫЖА́НЬНЯ, -я, *н.* Жаданне. *У мяне сяньні ё быжаньня выпіць сотку, мо йно вісялей будзіць.* Высокі Бор Краснап.

БЫЖА́НЫЙ, *прым.* Жаданы. *Быжаныга ні дыждацца, наверна, ні прідзіць.* Б. Хутары Краснап.

БЫЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Хацець, жадаць. *Чаго табе, дзеткі, даць, чаго ты быжаіш?* Юшкавічы Расням. *На ж табе, сьвякроўка, пылуношный вады! ‖ Ні вадзіцы быжала — цябе з сьвету збыўляла.* З нар. песні. Больщая Багацькаўка Мсцісл.

БЫЗА́Р, -у, *м.* Базар. *Ігрушы заўтра ны бызар пывязём.* Пірагова Мсцісл.

БЫ́ЙСТРЫЙ, *прым.* Быстры. *Тут выда быйстрыя, купацца нільзя.* Янаўка Мсцісл.

БЫ́ЙСТРЫЯ ВО́ДКА, *ж.* Спірт. *Купі ў аптэцы быйстрыя водкі для націраньня, кажуць, што дужа ат яе быльшая польза, шчыпіць, і ні справісься ны руку ўзяць, як ужо німа — убіраіцца ў цела.* Слаўнае Мсцісл.

БЫК, -а, *м.* Бык, бугай. *Чылавек мой* (муж) *зытупяніўся, як бык, і нізашто ні пашоў туды.* Палуж Краснап.

БЫКАВЕ́НЬКА, -і, *ж.* Дзверцы ў коміне, дзе знаходзяцца юшкі. *Зычыні быкавеньку, ато ўвесь дух с хаты выцігніць, хольдна будзіць.* Хвёдараўка Краснап.

БЫЛАБО́Н, -а, *м.* 1. Балабон, званок. *Пошта з былабоным, бывала, езьдзіла.* Хвёдараўка Краснап. *Надзень каню былабон, ато ён абізацілна ў шкоду пойдзець, дык хуць пачуіш, ідзе ён будзіць.* Арцёмаўка Міласл. 2. Чалавек, што лішняе гаворыць, пустазвон. *Слухай ты былабо́на етыга, ён заўсёгды ўжэць, ніколі праўды ня скажыць.* Крычаў. *Ён жа табе ныгаворыць сем кырабоў, а толку ні на грош — ці ж ні ведаіш гэстага былабона.* Ушакі Чэрык.

БЫЛАБО́НІЦЬ, *дзеясл.* Балабоніць. *Ня звонюць званы, а былабонюць, як у бляшку.* Слаўнае Мсцісл.

БЫЛАГО́Н, -а, *м.* Шацёр, шалаш. *Цыганы распусьцілі сваe былагоны і начуюць.* Касцюковічы.

БЫЛАГУ́ШКА, -і, *ж. бат.* Благушка, грыб. *Несьмысель набраў ніхарошых грыбоў — былагушык.* Гібалы Касцюк.

БЫЛАЗЕ́, *прысл.* Балазе, добра што. *Былазе ўмесьці жывем, ні пыдзялілісь, ато як ба ён сам хызяіным быў, дык ба нікалі хлеба на гыд ні хапала.* Арцёмаўка Міласл. *Былазе ты прішоў.* Дубеец Касцюк. *Былазе я цябе ўвідзіў.* Цёмны Лес Расням.

БЫЛАМУ́СТВА, -а, *н.* Баламуцтва. *Кінь ты баламуства: раз пыстынавілі, дык нечыга атказывыцца — сам гылысываў.* Арцёмаўка Міласл. *К чаму ета тваё быламуства, кажный дурный пойміць, што ты лжэш.* Слаўнае Мсцісл.

БЫЛАМУ́Т, -а, *м.* Баламут, падманшчык. *Мой бацька хрёсный ныстыяшчый быламут, кызаў ны вялікыдня дасьць яйцо, ды ні даў.* Слаўнае Мсцісл. *Знайшоўся быламут, пыддурыў дзеўку.* Сохана Мсцісл.

БЫЛАМУ́ТКА, -і, *ж.* Баламутка, падманшчыца. *Ні вер ты етый баламуткі — абакуліць іна цябе.* Зоры Чэрык.

БЫЛАМУ́ТНА, *прысл.* Нядображадана. *Кылі пан прыіжжаў, дык народ усягды яго неяк быламутна сустрічаў: дужа ўжу ні любілі яго.* Арцёмаўка Міласл.

БЫЛАМУ́ЦІЦЬ, *дзеясл.* Баламуціць, падгаворваць. *Во, ўжо пычынаіць быламуціць народ, нібы раней пры панох жыць было луччы.* Слаўнае Мсцісл.

БЫЛАХО́Н, -а, *м.* [Балахон], шырокая верхняя адзежа ад дажджу і пылу. *Што ета ты за былахон ныдзеў ды пят дліны, ды рукавы, як у пупа.* Арцёмаўка Міласл. *Пыдай мой былахон, у ім крыху будзе цяплей.* Касцюковічы.

БЫЛАЧЫ́НА, -ы, *ж.* Воблака, хмарка. *Былачына найшла, і дождж пашоў.* Хвёдараўка Краснап. *А на небі былачына чытырёхвугольныя, ‖ Ты скажы, мыя мілая, чым ты нідавольныя?* Частушка. Слаўнае Мсцісл.

БЫЛАЧЫ́НКА, -і, *ж.* Памянш. ад балачына. *Здаецца і невялікыя былачынка найшла, а дождж еткій льлецца.* Пірагова Мсцісл.

БЫЛІ́НКА, -і, *ж.* Засохлая трава [і каліва, каліўца]. *Хадзіла дзевычка пы далінкі, ‖ Скалола ножычку на былінку.* З нар. песні. Студзянец Касцюк.

БЫЛМАТУ́Н, -а, *м.* Балбатун, пустазвон. *Ня слухый ты яго, ён былматун, яму б толькі языком малоць, а путныга нічога ні скажыць.* Арцёмаўка Міласл.

БЫЛМАТУ́ХА, -і, *ж.* Балбатуха, жанчына, лёгкая на язык, пустазвон. *Іна ж тыкая былматуха, усё рыскажыць, адзе што пачуіць ці ўвідзіць, усё носіць ны дзярэўні, ўсякія новысьці сыма ўсё іншый раз павыдумляіць.* Арцёмаўка Міласл.

БЫЛЫБА́Н, -а, *м.* 1. Званок, балабон. *Павесь былыбан, штоб ні пыціралысь карова ў лесі.* Тур'е Крыч. 2. Чалавек, што гаворыць абы-што. *Ён заўсёды ўжэць, ніколі праўды ня скажыць, былабон йеты.* Там жа.

БЫЛЫБА́ЙКА, -і, *ж.* Балалайка. *Ты ўмееш іграць ны былыбайцы?* Пушкова Касцюк. *Добрая ў яго былыбайка, а як ён на ёй выігрываіць добра.* Добрае Мсцісл.

БЫЛЬЛЁ, -я, *н.* Бадылле, сухія тоўстыя сцяблы. *Боб дзеці па'ббіралі, адно быльлё зысталося.* Брацькавічы Касцюк.

БЫ́ЛЬЛЯ, -я, *н.* Былле, бур'ян. *Ны мяжы ўсякыя быльля пынарасло — прайці нільзя.* Высокі Бор Краснап.

БЫ́ЛЬНІК, -у, *м.* Быльнік. *Сёліта позна сена косім — трыва пасохла, зыстаўся адзін быльнік.* Слаўнае Мсцісл.

БЫЛЬША́К, -а, *м.* Гасцінец, бальшак. *Ішоў я ўчоры быльшаком і сустрэў нейкыга абырванца.* Пірогава Мсцісл.

БЫЛЯ́СА, -ы, *ж.* Балясіна, точаны слупок у загародцы. *У Івана ганык с былясымі мыліваныммі.* Ушакі Чэрык.

БЫЛЯ́СЫ ТАЧЫ́ЦЬ. Балясы тачыць, абы-што гаварыць. *Ён прівык былясы тачыць, ізыком меліць, меліць, а нічога путныга ні скызаў.* Слаўнае Мсцісл.

БЫЛЯЧКА, -і, *ж.* Балячка. *Ета я аб пілу разрезуў, дык відзіш, во, былячка ікая на руке.* Арцёмаўка Міласл. *Што гэта ў цябе зы былячка села ны руцэ?* Іванаўка Хоцім.

БЫМБА, -ы, *ж.* Гульня дзяцей у чорта і ангела. *Гулялі ў бымбу, я пыпаўсь к чорту.* Хвёдараўка Краснап.

БЫРАВІК, -а, *м, бат.* [Баравік], белы грыб. *Быравікі ўсё больш растуць пыд дубамі. Самый лепшый грыб — быравік.* Пірагова Мсцісл. *Быравік жэніцца, сыравежку бярэць, ‖ Білянка пачула — песінкі пяець.* З нар. песні, М. Г. 39.

БЫРАДНІК, -а, *м.* Браднік, брэдзень. *Мы лавілі рыбу быраднікам, ды зычапілі быраднік за корч, пыцягнулі і пырвалі.* Арцёмаўка Міласл.

БЫРАН, -а, *м.* 1. Баран. *Нейкі быран атбіўся ат стада.* Гібалы Касцюк. 2. Юшка над комінкам. *Агонь рысклала, а быран ні 'тчыніла.* Паўстыкі Крыч.

БЫРАНЕСА, -ы, *ж.* Вялікая пані, баранеса. *Эйт, ікая быранеса, і слова ёй ні скажы.* Краснаполле.

БЫРАНІЦЬ, *дзеясл.* Бараніць. *Брось яго быраніць, ато і табе дам.* Касцюковічы. *Ня треба яго быраніць, ён шыляніца быльшая.* Брацькавічы Клім.

БЫРАНІЧЫК, -чка, *м.* Абаранначак. *Прівязі мне с кірмашу гасьцінца — хуць адзін быранічык.* Слаўнае Мсцісл.

БЫРАНУВАЦЬ, *дзеясл.* Баранаваць. *Сямён сам арэць, сам і бырануіць.* Большая Багацькаўка Мсцісл.

БЫРАНЫК, -нка, *м.* [Абаранак]. *Тата, прывязі мне быранка з Амціслаўля.* Мазалава Мсцісл. *А брысь, коцік, ны ганкі, ‖ Нясі Юльцы быранкі.* З нар. песні, М. Г. 146.

БЫРАНЬКІ, *мн. л.* Абаранкі, лазовыя перавязкі, скрэпы ў баране. *Нада рызмачыць борыны, ато быранькі пырассохлісь і кляпы павысыпылісь.* Бяседавічы Хоцім.

БЫРАЦЬ, *дзеясл.* Перашкаджаць. *Янка, не бырай мне вучыць урокі.* Глінь Чэрык.

БЫРДАДЫМ, -а, *м.* Барнадым, высокі нехлямяжы чалавек. *Ах ты, бырдадым!* Касцюковічы.

БЫРКАН, -у, *м.* Паркан, загародка. *Пыд быркaным сяджу.* Хвёдараўка Краснап.

БЫРЛЯТЫ, *мн. л.* Камашы з тоўстай скуры. *Мае бырляты гразі ні быяцца.* Журбін Бялынкав.

БЫРЫБАН, -а, *м.* Бубен. *За бырыбаным і скрыпкі ня чуваць.* Арцёмаўка Міласл.

БЫРЫВІКОВІШЧА, -а, *н.* Баравіковішча, месца ў лесе, дзе растуць баравікі. *Пойдзім у грібы, я зыввяду вас ны самыя бырывіковішча.* Хвёдараўка Краснап.

БЫРЫДА, -ы, *ж.* 1. Барада. *Бырыда ў цябе зырысла — нада пыгаліцца.* Ушакі Чэрык. *Выпій і бырыду выціp.* Арцёмаўка Міласл. *Кызалі, кызалі: харош, прігож, ‖ Аж у яго прігажства абычайныя: ‖ Нос капылом, нос капылом, бырыда кляўцом.* З нар. песні, М. Г. 46. 2. Ніжняя частка кудзелі, з якой прадуць. *Ня лезь сюды, абкудлачыш бырыду, прасьці будзіць плоха.* Белы Мох Мсцісл.

БЫРЫЗНА, -ы, *ж.* Баразна. *Адна бырызна зыстылась, і загон будзіць гатоў. Прыгані быразну маім плугым.* Касцюковічы.

БЫРЫНА, -ы, *ж.* Барана. *Бырына пылымалась.* Барысавічы Клім. *У баране не хапае кляцоў, а трэба бырынываць ехыць.* Парадзіна Мсцісл.

БЫРЫНАВІШЧА, -а, *н.* Месца, якое можа заняць барана (на шырыню бараны). *Усяе й палоскі ў мяне ны два бырынавішчы.* Брылёўка Краснап.

БЫРЫНЫВАЦЬ, *дзеясл.* Баранаваць. *Зайтра нада ехыць бырынываць папар.* Парадзіна Мсцісл.

БЫРЫШЫ, *мн. л.* Барыш. *Я прыдаў карову і бырышы выпіў — купец той, што купіў, пыставіў гарніц.* Арцёмаўка Міласл.

БЫСТРЫЙ, *прым.* Быстры, скоры. *Тут речка быстрыя, ні піряплывеш.* Пухнава Раснян. *Чэріз речыньку, чэріз быструю ‖ Тонка кладычка ляжыць.* З нар. песні, М. Г. 6.

БЫСТРЫНЯ, -і, *ж.* Быстрыня. *На сярёдку рякі ў самыю быстрыню пупаў, ледзь выплыў — думаў, што зальюсь.* Каробчына Мсцісл.

БЫСТРЫЯ ВОДКА. Спірт. *Нейкія атруты хваціў, знаць, быстрыя водкі, усе пыаппаліў у році, чуць ні памёр.* Слаўнае Мсцісл.

БЫСЫЛАЙ, -я, *м.* Басалай, баглай, абібок, гультай. *Ды работы ні загоніш бысылая етыга, цэльный дзень цігаіцца пы дзяреўні.* Высокі Бор Краснап.

БЫСЬКА, -а, *м.* Бычок. *Карова цяліла быську.* Палуж Краснап.

БЫСЬЦЯЦЦА, *дзеясл.* Басцяцца, хадзіць доўгі час без заняткаў. *Як табе ня сорымна па вёсцы бысьцяцца, хаця б ты штонебудзь рабіў.* Касцюковічы.

БЫТЫЙ, *прым.* Былы, мінулы. *Бытое я скора забываю — хопіць зь міне і цяперышніга, усі роўна бытога ні верніш.* Ушакі Чэрык.

БЫТРАК, -а, *м.* Батрак, парабак. *У хызяйстві німа каму работыць, прыдзіцца ныняць бытрыка.* Слаўнае Мсцісл. *У яго бытрак, усёдно што сам хызяін — усяго даглядзіць, аб усім клапоціцца.* Міцькаўшчына Мсцісл.

БЫТРАЧКА, -і, *ж.* Батрачка, парабчанка. *Ныніла сабе бытрачку, ні спраўлюсь адна с работыю ўлетку.* Слаўнае Мсцісл.

БЫХАНКА, -і, *ж.* Баханка, булка хлеба. *Атчыкні ат быханкі кывалычык хлеба ды зьеш.* Ушакі Чэрык.

БЫХМАТЫЙ, *прым.* Лахматы. *Зраньня, як устаў, так і ходзіць быхматый, хуць ба прічысаўсь німнога.* Палуж Краснап.

БЫЦЬ, *дзеясл.* Быць. *Мне нада сяньні быць цэлый дзень у дваре, пытаму што у нас нікога німа і не с кім хату кінуць.* Арцёмаўка Міласл. *Акпёным быць ня дужа прыемна.* Сапрынавічы Мсцісл. *Янка купіў атруты: будзіць ваўкоў труціць.* Бяседавічы Хоцім.

БЫЦЬЦЁ, -я, *н.* Быццё. *Жыццё-быцьцё маё гырямычныя, хуць ба сьмерць скарей прішла.* Бяседавічы Хоцім.

**БЫ́ЦЦЫМ**, *прысл.* Быццам, як бы. *Усё прашло быццым у ва сьне.* Дубеец Касцюк. *Пыгадзі-ка, я прайду, быццым міма іду, і гляну, што ён там дзелыць.* Арцёмаўка Міласл. *Надзей Антось новую кашулю, дык быццам і прыгож стаў.* Малюшын Краснап.

**БЫЦЯ́Н**, -а, *м.* Бацян, бусел. *Глядзі, ўжо быцян прыляцеў, гняздо віць будзіць.* Касцюковічы.

**БЫЧО́К**, -чка, *м.* 1. Бычок. *Бычка-трыцячка сабе купіў.* Зарубец Крыч. 2. Недакурак. *Дай мне бычок дакурыць.* Хвёдараўка Краснап.

**БЫЧЭ́НІЦЦА**, *дзеясл.* Упірацца. *Ні бычэнься ты, туварыш, ідзі, калі клічуць.* Хвёдараўка Краснап.

**БЫШКА́**, -і, *ж.* Галава. *Дурная ў яго бышка, мала ён чаго пынімаіць.* Арцёмаўка Міласл.

**БЫЯВЫ́Й**, *прым.* Бойкі, кемлівы. *Во быявэй хлопіц: нідзе ні прыпадзе і сябе ў абіду ні дасьць.* Арцёмаўка Міласл. *Гыраська хлопіц быявэй: куды хочыш пашлі, усюдых справіцца.* Краснаполле.

**БЫЯЗЬЛІ́ВА**, *прысл.* Баязліва [пужліва]. *Чаго ты так ніряшыцільна і быязьліва ідзеш у хату, ступай скарэй.* Слаўнае Мсцісл.

**БЫЯЗЬЛІ́ВЫЙ**, *прым.* Баязлівы, пужлівы. *Етый сыбачка быязьлівый дужа, пыкажы яму толькі палку, дык ён схуваіцца.* Арцёмаўка Міласл.

**БЫЯ́ЗНА**, *прысл.* Страшна [боязна]. *Яно пы лясу хадзіць ноччу троху быязна, яшчэ воўк ці плахей чылавек пыпадзецца.* Арцёмаўка Міласл.

**БЫЯ́РЯ**, *н. зборн.* Баяры — сват і другія дзейныя асобы на вяселлі з боку жаніха. *Абнясі, татухна, двор рякою,* || *Ні пусьці, татухна, быярый на двор —* || *Будуць цябе, татухна, выіваць, выіваць,* || *А й мяне ат цябе атбіраць.* З вясельн. песні. Меншая Багацькаўка Мсцісл.

**БЫЯ́ЦЦА**, *дзеясл.* Баяцца. *Чаго табе яго быяцца, ён жа цябе ня зьесьць.* Слаўнае Мсцісл. *Ідзі, ня бойсь, мы будзім табе атгукацца.* Пірагова Мсцісл.

**БЭ́БУХІ**, *мн. л.* Унутранасці [трыбухі]. *Як кінуў яго вобземлю, дык усі бэбухі атсадзіў.* Хвёдараўка Краснап.

**БЭЖ**, -у, *м. бат.* Жасмін, язьмін. *Пасадзіце вы куст бэжу, ён ладна пахніць.* Буліна Клім.

**БЭЗ**, -у, *м. бат.* Бэз. *Бэз зацьвіў. Пайдзём нылымаім бэзу.* Хвёдараўка Краснап. *Тры гады толькі, як пысадзіў я геты куст бэзу, а сёліта ўжэ зацьвіў.* Добрае Мсцісл.

**БЭ́ЙБУС**, -а, *м.* Байбус. *Такій бэйбус, а зь дзіцёнкым зьвізаўсь, абіднік.* Высокі Бор Краснап.

**БЭ́ЛЬКА**, -і, *ж.* Бэлька. *Вось гэта ладныя бервяно на бэльку.* Добрае Мсцісл.

**БЭНЦ**, *выкл.* Бах, трах. *Той нешта яму скызаў, а гэсты — бэнц яму па мордзі.* Маластоўка Краснап.

**БЭНЬСЬ**, -я, *м.* Народжаны да замужжства дзеўкаю [і балавень]. *Етый дзіцёнык яе бэньсь, іна яго яшчэ ў дзеўках радзіла.* Арцёмаўка Міласл.

**БЯГУ́ЧЫЙ**, *прым.* Бягучы. *У рэчцы выда бягучыя.* Касцюковічы. *Етый ручаёк бягучый, у ім чыстыя выда.* Арцёмаўка Міласл.

**БЯДА́**, -ы, *ж.* 1. Бяда, няшчасце, гора. *Ты мяне зь бяды вызвыліў.* Пірагова Мсцісл. *Бяда ня ідзець адна.* Ушакі Крыч. 2. Двуколка, лёгкі возік. *Паехылі к бацьку нейкія ўдваіх ны бядзе ны мыладым жэрабцы.* Пірагова Мсцісл.

**БЯДА́К**, -а, *м* [Бядак], бедны чалавек. *Як пыгляджу я ны цябе, дык ты вялікі бядак стаў: нічога ў цябе німа.* Добрае Мсцісл.

**БЯДО́ВЫЙ**, *прым.* Бядовы, смелы. *Бядовы чылавек — нікому ня спусьціць. Бядовыя баба, пупыдаіць Максіму 'д яе.* Палуж Краснап.

**БЯДО́ТА**, -ы, *ж.* Бядота, беднасць. *Ну й бядота ў іх, нат есьці німа чаго.* Пушкова Касцюк.

**БЯЖКО́М**, *прысл.* Бегам, хутка, скора. *Бяжы бяжком, дагоніш.* Хвёдараўка Краснап.

**БЯЗ**, *прыназ.* Без. *Бяз етыга не абойдзесься, як нады, так нады.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

**БЯЗБО́ЖНІК**, -а, *м.* Бязбожнік. *У Янкі сын нейкі бязбожнік.* Чыгрынаўка Расням.

**БЯЗГЛУ́ЗЬДЗІЦА**, -ы, *ж.* Бязглуздзіца, бесталач, тое, што робіцца без толку. *Паміж імі вечныя бязглузьдзіца — тэй сабе робіць, а тэй сабе, ніякыга толку ў іхнім жыцьці.* Добрае Мсцісл.

**БЯЗГО́ДУШКА**, -і, *ж.* Бяздолле, няшчасце. *Бязгодушка мыя, куды ні пывярнусь, нідзе мне ўдачы німа, ні ў чым мне ня йдзець.* Арцёмаўка Міласл.

**БЯЗДО́ЛЬЛЯ**, -я, *н.* Бяздолле. *Ны маё бяздольля і пятух ні пяець, і гусак ні крічыць.* Прымаўка. Большая Багацькаўка Мсцісл.

**БЯЗДО́ЛЬНІК**, -а, *м.* Бяздольнік, чалавек, што не мае долі, шчасця. *Мой сын бяздольнік: выцігнуў жэрібʼя іці ны вайну.* Слаўнае Мсцісл.

**БЯЗДО́ЛЬНЫЙ**, *прым.* Бяздольны, няшчасны, чалавек без долі. *Бяздольный ён відна — ува ўсіх жыта зырадзіла, а ў яго прыпала.* Арцёмаўка Міласл.

**БЯЗДО́МНЫЙ**, *прым.* Бяздомны. *Прапіўсь і цігаіцца з сіла ў сяло, ік бяздомный быдзяга.* Высокі Бор Краснап.

**БЯЗДО́НЬНЯ**, -я, *н.* Бяздонне, непамерная глыбіня. *А пыд намі ўнізе было такоя бяздоньня, аж гылыва кругом ішла, гледзючы ў яго.* Ушакі Чэрык. *Наша возіра ныстыяшчыя бяздоньня, век дна ні дыстанеш.* Слаўнае Мсцісл. *Прываліўсь у некыя бяздоньня.* Хвёдараўка Краснап.

**БЯЗДУ́МНА**, *прысл.* [Бяздумна], не падумаўшы. *Я нейк бяздумна зьдзелыў ета.* Высокі Бор Краснап.

**БЯЗЖЫ́ЛІЦЦА**, *дзеясл.* Абяссіліцца, знясіліцца. *Зусім бязжыліўсь і пываліўсь на зямлю.* Бяседавічы Хоцім.

**БЯЗЖЫ́УНЫЙ**, *прым.* Нежыццёвы, вялы. *Бяз дожджу ячмень стаў бязжыўны.* Пушкова Касцюк.

**БЯЗЗЫГА́ННЫЙ**, *прым.* Беззаганны, без ніякай заганы. *Конь бяззыганны і сто-*

*іць тую цану, што ён аддаў зы яго.* Добрае Мсцісл.

БЯЗЗЫ́СКНА, *прысл.* Беззваротна. *Даў я яму пяцёрку бяззыскна, а ён яшчэ ніздаволін.* Добрае Мсцісл.

БЯЗКРІ́ЎДНА, *прысл.* Няўразна, безуразна [без крыўды]. *Бязкріўдна зь ім абышоўсь: зыплаціў зы работу правілна.* Высокі Бор Краснап.

БЯЗМЫ́СЬЛІНА, *прысл.* Несвядома. *Нада прасьціць хлапцу правіннысьць: ён бязмысьліна ета зьдзелыў.* Маластоўка Краснап.

БЯЗРУ́ПЫТЛІВА, *прысл.* Бесклапотна. *Я і сам ні прыдумаю, як можна так жыць бязрупытліва — ні аб чым ён ні клыпаціцца.* Добрае Мсцісл.

БЯЗРУ́ПЫТНА, *прысл.* Бесклапотна. *Бязрупытна жыць нельга.* Пушкова Касцюк.

БЯЗСУ́МНЫЙ, *прым.* Весёлы. *Іна нейкыя бязсумныя, ні пра што ні бядуіць. Вечна сьмяецца, бяссумный чылавек.* Высокі Бор Краснап.

БЯЗУ́МІНКА, -і, *ж.* Тонкая дошка, менш цалі. *Сяньні нарэзылі бязумінкі.* Хвёдараўка Краснап.

БЯЗУМО́ЎНА, *прысл.* Безумоўна, без ніякай умовы. *Бязумоўна, ён сыгласіўся са мною.* Добрае Мсцісл.

БЯЗУСТА́НЬНЯ, *прысл.* Нястомна. *Я сяньня бязустаньня цэлы дзень работыў.* Добрае Мсцісл.

БЯЗЬВЕ́СНЫСЬЦЬ, -і, *н.* Бязвеснасць, невядомасць. *Мой сын з вайны прыпыдае недзе ў бязвеснысьці.* Пячоры Касцюк.

БЯЗЬВЕ́ЧЧА, -а, *н.* Бязвечча, калецтва. *Нідаўна адзін хлопчык ны саломіну выкылыў сабе вока, а цяперь цярьпі такоя бязьвечча ўсё жыцьцё.* Слаўнае Мсцісл.

БЯЗЬВЕ́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Абязвечыць, акалечыць. *Ты так б'еш сваіх дзяцей, што можаш іх 'бязьвечыць.* Слаўнае Мсцісл.

БЯЗЬДЗЕ́ЛЬЛЯ, -я, *н.* Бяздзелле, адсутнасць работы. *Не найду я пы сабе работы, а ад бязьдзельля дужа тошна.* Слаўнае Мсцісл.

БЯЗЬДЗЕ́ЛЬНЫЙ, *прым.* Безработны. *У нас тут ёсьць адзін бязьдзельный — паспрабуй, можа і наймецца, пыгывары зь ім.* Пірагова Мсцісл.

БЯЗЬЛЕ́ЦЦЕ, -я, *н.* Ліхалецце, неўраджайны год. *Мінулы год можна назваць бязьлецьцем.* Касцюковічы.

БЯЗЬЛЮ́ДЗДЗЯ, -я, *н.* 1. Бязлюддзе. *Скушна жыць ны хутурах; бязьлюдздзя кругом, чылавека ў вочы ня ўвідзіш.* Арцёмаўка Міласл. 2. Нікчэмны чалавек. *Ні чылавек ён, а бязьлюдздзя нейкыя.* Хвёдараўка Краснап.

БЯЗЬМЕ́Н, -а, *м.* Бязмен. *У нас вясоў німа, мы ны бязьмен зьвешыім: ён пыднімаіць да пуда.* Арцёмаўка Краснап.

БЯЛЕ́ЙКІ, -аў, *мн. л.* Кросны для кужалю, для тонкага палатна. *Бялёйкі пыставіла — буду ткаць.* Хвёдараўка Краснап.

БЯЛІ́ЗНА, -ы, *ж.* Бялізна. *Сёньня бялізну нада мыць.* Тур'е Чэрык.

БЯЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Бяліць, рабіць белым. *Выткылі, а цяперь бяліць будзім.* Чыгрынаўка Раснян. *Сястрын жывот баліць, што некыму пылацён бяліць.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

БЯЛЬЛЁ, -я, *н.* Бялізна. *Ізьдзелый агвару, бяльлё мыць нада.* Татаршчына Мсцісл. *Убяры аттуль бяльлё, ато куры абгажывыюць.* Пірагова Мсцісл.

БЯЛЮ́Г, -а, *м.* Бяляк, заяц белы. *Бялюг пабег. Бялюг дарогу перабег, будзе нішчасься.* Хвёдараўка Краснап.

БЯНТЭ́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Бянтэжыць, збіваць з панталыку, дурыць. *Дос табе яго бянтэжыць, ён і так зьбянтэжыный.* Большая Дуброва Мсцісл.

БЯРВЕ́НЬНЯ, -я, *н. зборн.* Бярвенне. *Трэба абчысаць бярвеньня, каб ня струхлелі за лета.* Клімавічы. *Каб не абсыпалась зімля ат сьцен погріба, яго аптынкывалі тонкім бярвеньнем.* Сохана Мсцісл.

БЯРЁЗА, -ы, *ж.* Бяроза. *Лі дарогі расьцецць бярёза.* Чыгрынаўка Раснян. *Пыд бярёзый расьцець абабык.* Хвёдараўка Краснап. *Зы гарою бярёза вецьця гнець, || Там наша Мыланка вянкі ўецць.* З нар. песні, М. Г. 8.

БЯРЁЗУВІК, -а, *м.* Бярозавы сок. *Паедзім у лес зьліваць бярёзувік, у мяне там дваццаць бярёз падсечына.* Бяседавічы Хоцім. *Вясною нада бярёзу падсеч, ды падставіць судно ны бярёзывік, ды квасу зьдзелыць зь яго, ато капусты скора ня будзіць ужу.* Арцёмаўка Міласл.

БЯРЕ́МА, -а, *н.* Бярэмя. *Ныбраў дроў цэлае бярема. Вазьмі дзіцёнка ны бярема.* Дубеец Касцюк.

БЯРЕ́СТА, -ы, *ж.* Бяроста, бярозавая кара. *Нарьві ад бярёзывый палкі там бярёсты, ёю хырашо печку пыдтаплівыць, лучшы лучыны гарыць.* Арцёмаўка Міласл. *Вазьмі бярёзывую палку ды ныдзяры бярёсты.* Слаўнае Мсцісл.

БЯРЖУ́Н, -а, *м.* Высокі чалавек. *Увыйшоў у хату бяржун некій — гылыва чуць ні да столі.* Хвёдараўка Краснап.

БЯРНО́, -а, *н.* Бервяно. *Прівёз тоўстыя бярно зь лесу.* Вародзькава Крыч. *Ета бярно ны пыдваліну гадзіцца.* Чыгрынаўка Раснян.

БЯРО́ЗА, -ы, *ж. бат.* Бяроза. *Прыгожыя дзерыва бяроза; белыя, кучуравыя, раскідзістыя.* Пірагова Мсцісл. *Глядзі, якей мыладзенькі абабык лі бярозы.* Сохана Мсцісл.

БЯРО́ЗАВІК, -у, *м.* Бярозавы сок. *Будзім вясною атпівацца бярозавіку.* Пірагова Мсцісл.

БЯРО́ЗКА, -і, *ж.* 1. *бат.* Бярозка, трава павіліка, уюнок, павой. *Бярозка — ета такія красычкі, якія сьцелюцца пы зямлі, яны бываюць белыя і розавыя.* Пірагова Мсцісл. *Бярозка ўецца пы ячменю.* Хвёдараўка Краснап. 2. Памянш. ад бяроза. *Бярозка стаіць абвінутыя ў сьнег, што дзіцёнык у тулуп.* Пірагова Мсцісл. *Абапал дарогі растуць бярозкі.* Смолькаўская Буда Бялынкав.

БЯРЭ́ЗЬНІК, -у, *м.* Бярэзнік, беразняк, бярозавы лес. *У нашым бярэзьніку сёліта многа абабык.* Пірагова Мсцісл.

БЯРЭ́МА, -а, *н.* Бярэмя, ноша ў абхват рукамі. *Прінясі бярэма дроў.* Касцюковічы.

БЯРЭ́МЦА, -а, *н.* Памянш. ад бярэма. *Прынёс бы бярэмца дроў у хату.* Палуж Краснап.

БЯРЭ́Ч, *дзеясл.* Берагчы, сцерагчы, пільнаваць. *Я бірагу свой сад, бо калі ня будзіш бярэч, то нічога ня ўвідзіш — рыскрадуць.* Іванаўка Хоцім.

БЯСЕ́ДА, -ы, *ж.* Вечарынка. *У суседа сяньня бяседа нейкыя.* Чыгрынаўка Раснян. *Як зайду я ў бяседу, ‖ А ў бяседзі стары сядзіць, ‖ Ны каленіх гусьлі дзяржыць.* З нар. песні, М. Г. 101.

БЯСЕ́ДЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Бяседаваць [гутарыць], спакойна абменьвацца думкамі. *Сідзяць сабе й бяседыюць паціху.* Маластоўка Краснап.

БЯСКЛО́ПЫТНА, *прысл.* Бесклапотна. *Жывець ён зусім бесклопытна, бо ў яго ўсяго хапаіць.* Добрае Мсцісл. *Бясклопытна жывуць, што ім.* Қасцюковічы.

БЯСКО́НЬНІЦА, -ы, *ж.* Адсутнасць коней. *Бясконьніца ў нашый дзярэўні — усі коні пыздыхалі.* Брылёўка Краснап.

БЯСПЛЕ́МІННЫЙ, *прым.* Бясплеменны, не маючы роду (без роду). *Глядзім, ходзіць нечый бясплемінный жырябёнык, адбіўсь ад табуну.* Пірагова Мсцісл.

БЯСПРО́МІЦЬЦЮ, *прысл.* Без аглядкі, не аглядаючыся. *Сыбака пабегла двору бяспроміцьцю, так ёй ныклалі.* Усцінавічы Краснап.

БЯСПРО́МЫХНА, *прысл.* Беспамылкова. *Я жаніўся бяспромыхна і дужа здаволін сваёй сямьёй.* Пірагова Мсцісл.

БЯССКУ́СНЫЙ, *прым.* Нясмачны, без смаку. *Ікая бяскусныя крупеня.* Палуж Краснап.

БЯССЛО́ЎНЫЙ, *прым.* Маўклівы. *Бясслоўныя дзеўка: усі гаворяць, сьмяюцца, а йна сядзіць паціху.* Палуж Краснап.

БЯССО́ВІСНЫЙ, *прым.* Бессумленны. *Бяссовісный чылавек; бяссовісныя дзеўка.* Іванаўка Хоцім.

БЯССО́РЫМНА, *прысл.* [Бяссаромна]. *Ты пуступіў бяссорымна; бяссовісный ты.* Горкі Краснап.

БЯССПО́РНА, *прысл.* Бясспрэчна. *Атдаў бясспорна, нічога ні скызаў.* Высокі Бор Краснап.

БЯСЦЭ́НЬНЯ, -я, *н.* Безцань. *Зы бясцэньня ддаў.* Палуж Краснап.

БЯСЧЭ́СЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Бясчэсціць, ганьбіць, сарамаціць. *Ты хочыш перад людзямі бясчэсьціць мой двор.* Пірагова Мсцісл. *Бясчэсьцілі чылавека дырма: ён ні вінуватый.* Палуж Краснап.

БЯСЧЭ́СЬЦЯ, -я, *н.* Бясчэсце, ганьба. *Я такога бясчэсьця ў сваёй хаце не дапушчу.* Пірагова Мсцісл. *Нады ж цярпець такога бясчэсьця.* Чыгрынаўка Раснян.

БЯСШКО́ДНА *прысл.* Без усякай шкоды. *Хмара бясшкодна прайшла, а думаў — град будзіць.* Горкі Краснап.

БЯТЛА́ГА, -і, *ж.* Баклага. Невялікая, на паўвядра пасудзіна на ваду з двумя днамі і дзіркаю з боку, у клёпцы. *Налі вады ў бятлагу і прынясі на поле.* Крычаў.

БЯШШТЭ́НЬНІК, -а, *м.* Малое дзіця без штаноў. *Я ведыў яго, як ён яшчэ бяштэньнікым хадзіў.* Палуж Краснап. *Бяштэньнік ты!* (у сэнсе блазен). Чыгрынаўка Раснян.

# В

ВА, *прыназ.* У, ва. *Ва льне зельля шмат — палоць нада.* Мацутаўка Раснян. *Сяньні Сымон нешта броіў ва сьне.* Пабкі Раснян.

ВА́БА, -ы, *ж.* Прыманка. *Етыя Ганна нейкія вабы даець ці што: усі хлопцы за ёю цігаюцца.* Ракоўшчына Раснян.

ВА́БІЦЦА, *дзеясл.* Вабіцца, квапіцца. *Людзі любяць усё прыгожае, ды ня ўсі адзінаква вабяцца прыгожасьцю.* Сохача Мсцісл.

ВА́БІЦЬ, *дзеясл.* Вабіць, заманьваць, прыманьваць. *У нас ёсьць дзед, якей дужа лоўка ў гырлач ваўкоў вабіць.* Хвёдараўка Краснап.

ВА́БНЫЙ, *прым.* Вабны, прыцягваючы сімпатыю [прывабны]. *Вабный хлопіц вырас у Міхыся. Вабныя дзяўчына — на ўсю акругу такой ні знойдзеш.* Зубаўка Раснян.

ВА́ВА, -ы, *ж.* Агонь (дзіцячае). *Ня йдзі да печы, ато ўкуся вава.* Хвёдараўка Краснап.

ВАВЁРКА, -і, *ж.* Вавёрка, векша. *Я чуць сяньні вавёркі ні злавіў, зь веткі на ветку скыкала ды ашуснулась.* Смолькі Қасцюк.

ВАВО́З, -а, *м.* Крыты ход у падасець. *Зачыні вавоз, каб карова ў падасець ні зайшла.* Хоцімск.

ВА́ГА, -і, *ж.* 1. Вага. *Тут ні хыпае вагі, цэлых два хунты німа.* Карабанава Қасцюк. *У ём вагі чатырі пуды.* Бяседавічы Хоцім. 2. Значэнне. *Нашыга ныстаўніка ўсі сяляне пыважаюць, кожнае слова яго для іх маіць вагу.* Сохана Мсцісл.

ВАГА́, -і, *ж.* Вага, кол, якім штонебудзь падважваюць. *Смаловыя пні вырываюць вагой.* Тульдава Раснян. *Нада вагою пыдняць ета, так ні падымеш.* Хвёдараўка Краснап.

ВАГНІВО́, -а, *н.* Крэсіва для высякання агню. *Вынь-ка сваё вагніво ды высечы вагню.* Дубеец Қасцюк.

ВАГО́Н, -а, *м.* Вагон. *Скокнуў з вагону ды й ногу вывіхнуў.* Старае Сяло Мсцісл.

ВАГУ́ЛАМ, *прысл.* Агулам. *Купляй вагулам усё за пяць рублёў.* Слабада Раснян. *Я прадаў жыта вагулым па 80 капеяк.* Қаменкі Раснян.

ВА́ГЫМ, *прысл.* Паволі, паціху. *Вядзі яго вагым, ня сьпішайся.* Қасцюковічы.

ВАД, -у, *м.* 1. Спёка, гарачыня ўлетку. *Ну і вад жа сяньні, хуць ты пасьледнію сарочку ськідай.* Бяседавічы Хоцім. 2. Ужыва-

ецца як лаянка, праклён. *Куды ты там павёў, каб цябе вад вадзіў, злодзей ты!* Карабанава Касцюк.

ВАДЗЕ́НЬ, вадня́, *м.* Авадзень. *Вадзень укусіў, дык уся рука ўспухла.* Робцы Раснян. *Летам уся работа раньніцыю, а сярод дня вадні спакою ні даюць.* Забычанне Касцюк. *Ад мух і ваднёў спакою скаціне німа.* Сохана Мсцісл.

ВАДЗІ́ЛА, -а, *н.* Прылада гнуць палазы. *Я прівёз харошыя вадзіла, будзім палазы гнуць.* Ташна Клім.

ВАДЗІ́ЦА, -ы, *ж.* Памянш. ад вада. *На вадзіцы напіся, лягчэй будзе.* Старынкі Раснян. *Там цябе раніцька ўзбудзюць, ‖ Там цябе пу вадзіцу пашлюць.* З нар. песні, М. Г. 14.

ВАДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Вадзіцца. *Ну і німярэч жа тут! Толькі зьвяр'ю і вадзіцца.* Лешчынка Мсцісл. *У нас цігры ня водзюцца.* Бяседавічы Хоцім. *Такога зуха, як ты, ды рывалюцыі ні вадзілыся.* Хвёдараўка Краснап.

ВАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Шкодзіць, вадзіць [замінаць]. *Мне ні вадзіць, што шубу надзеў.* Хвёдараўка Краснап. 2. Хацецца. *Прівык куріць, дык цяпер ужу вадзіць.* Арцёмаўка Міласл.

ВАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Вадзіць. *Ён такей, што пыстыянна на пываду вадзіць яго нада, ато ўцякець.* Бялішчына Мсцісл. *Будзім з табой коні на начлег вадзіць.* Старынкі Раснян.

ВАДЗІ́ЦЬ КУНПА́НІЮ. Быць у дружбе. *Ні хачу зь імі кунпанію вадзіць; яны ўсі атряхі, зь імі яшчэ ў вастрог пупадзеш.* Арцёмаўка Міласл.

ВАДЗЯ́НКА, -і, *ж.* Бочка для вады. *Нанасі вады поўныю вадзянку.* Чарнарэчкі Раснян.

ВА́ДКА, *прысл.* Сыра, мокра. *Ні пускай ты яго сяньні гуляць на вуліцу, етык вадка ны дварэ — намочыцца, кашляць будзе.* Добрае Мсцісл.

ВА́ДКІЙ, *прым.* Вільготны, сыры. *Хлеб вадкій, пагода вадкыя.* Маластоўка Краснап.

ВА́ДКЫСЬЦЬ, -і, *н.* 1. Вадкасць. *Што ета зы вадкысьць там у цэбры?* Карабанава Касцюк. 2. Вільгаць. *У зямлі німа вадкысьці, высыхла ўся.* Хвёдараўка Краснап. *Дровы гарець ні будуць — у іх вадкысьці быгата.* Горкі Краснап.

ВА́ДЛІВА, *прысл.* Горача [спякотна]. *Сяньні ўдзень было дужа вадліва, вадні было заелі.* Дубеец Касцюк. *Сягоньні дужа вадліва — канём зарэз.* Хвёдараўка Краснап.

ВА́ДНА, *прысл.* Горача [спякотна]. *Сяньні так вадна, што целый дзень ні вылазіў бы з речкі.* Бяседавічы Хоцім.

ВАДО́ХРІШЧА, -а, *н.* Вадохрышча, свята хрышчэння. *Заўтрі ў церькві будзіць вадохрішча, ваду будуць асьвішчаць.* Горкі Краснап.

ВАДЫ́, -оў, *мн. л.* Нейкія чэрці. *Вады цябе ніхай водзюць.* Хвёдараўка Краснап.

ВАЕ́НЫЙ, *прым.* Вайсковы. *Паехыў у горыд па нейкім ваеным дзіла́м; вызвылі ці пытаму, што білет прасрочыў, ці ён проста дзізірцір.* Арцёмаўка Міласл. *Ваеныя справа.* Высокі Бор Краснап.

ВАЖДЖА́ЦЦА, *дзеясл.* Важдацца. *І чаго ён зь ім важджаецца.* Верба Раснян.

ВА́ЖКІЙ, *прым.* Важкі, што шмат важыць, цяжкі. *Етый камінь дужа важкій.* Чышэўка Крыч.

ВАЖНА́, *прысл.* Важна. *Ці йта конча ён доўжын ехыць? Можыць і хто-небудзь другей паехыць, ета ні та́к важна.* Арцёмаўка Міласл. *А на калі ета зрабіць? Абы-калі, ні так важна.* Старае Сяло Мсцісл.

ВА́ЖЫНЫЙ, *прым.* Важаны. *Мяшок з жытум важынэй.* Маравілле Касцюк.

ВА́ЖЫЎНЯ, -і, *ж.* Месца, дзе важаць. *Пры складзі ёсьць важыўня, дзе можна зважыць хлеб.* Палуж Краснап.

ВА́ЖЫЎШЧЫК, -а, *м.* Той, хто важыць. *Ны складзі важыўшчык ніправільна зважыў маё жыта.* Палуж Краснап.

ВА́ЖЫЦЦА, *дзеясл.* Важыцца. *Пойдзім у мельніцу важыцца.* Канічы Касцюк.

ВА́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Важыць. *Ны вісах важыць луччы, чым ны кантыры.* Лешчынка Мсцісл. *Поп дужа товіст, пудоў восім важа.* Палуж Краснап.

ВАЗА́К, -а, *м.* 1. Вознік, што возіць цяжкія рэчы, пераважна лес. *Вазакі пывязьлі лес да прыстані.* Барысавічы Клім. 2. Конь, што можа везці добры воз. *Конь у мяне вазак, які воз ні пакладзі, вязець.* Гарадзец Бабр.

ВАЗДА́ХТАР, -а, *м.* Палюбоўнік, каханак. *Гуляя з сваім вaздахтарым.* Маластоўка Краснап.

ВАЗЕ́Ц, -зца, *м.* Вознік. *Сапрон нынялся вазцом у Касцюковічы.* Палуж Краснап. *Вызца ў Клімывічы ныняў.* Маластоўка Краснап.

ВАЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Вазіцца, поркацца. *Што ета ён там возіцца кыла саней, скажы яму, каб ішоў у хату.* Арцёмаўка Міласл.

ВАЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Вазіць. *Нада снапы вазіць, а тут і скаціны некыму пасьціць, вот і дзелый, што хочыш.* Бабінкі Раснян. *Пыд ячмень трэба вазіць гной.* Цірэні Раснян.

ВАЗО́К, -зка, *м.* Вазок, лёгкія санкі. *Зыпрягі-ка вазок, нада зьезьдзіць у госьці к свату.* Бяседавічы Хоцім. *На розвыльнях дренна ехыць, кылі б вазок — було б луччы.* Арцёмаўка Міласл. *Мы ўдваіх сядзем у вазку, а ты ны сядзеньні.* Пірагова Мсцісл.

ВАЗО́Н, -а, *м.* 1. Гаршчок для хатніх [пакаёвых] кветак, раслін. *Нада ныбраць зёму ў вазоны.* Палуж Краснап. 2. Самáя [пакаёвая] расліна. *Вашы вазоны ўжо заусьвілі, а нашы йшчэ не.* Цірэні Раснян.

ВАЗО́ЎНЯ, -і, *ж.* Паветка, дзе ставяць калёсы, сані і інш. *Зыкаці калёсы ў вазоўню.* Прусіна Касцюк.

ВАЗО́ЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад воз. *Шамнулі вазочкі ны дварэ, ‖ Пылядзі, мамычка, ці ні пы мяне.* З нар. песні, М. Г. 24.

ВАЗЯРЫ́НА, -ы, *ж.* Вялікая лужа. *Люгашка выпыўзла з вызярыны.* Вярбоўка Раснян.

ВАЗЯРЫ́ШЧА, -а, *н.* Дно былога возера. *Ны вазярышчы ходзюць коні.* Ляхі Чэрык.

ВАЙНА́, -ы, *ж.* Вайна. *Пятрок зажуріўся, што сына ны вайну пыгналі.* Гібалы Касцюк. *Ны вайне яго аканфузілі, дык цяпер быйтуном стаў.* Хвёдараўка Краснап.

ВАЙСТРА́К, -а, *м.* Востры канец чагонебудзь. *Няроўна сьпілілі, трэба вайстрак укруміць.* Хвёдараўка Краснап.

ВАЙСТРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Вастрыць, рабіць вострым. *Кінь ты ўжо вайстрыць, нож і так войстры.* Касцюковічы.

ВАЙТО́ЎНА, -ы, *ж.* Войтава дачка. *Прыбралася, як вайтоўна.* Верба Раснян.

ВАКЕ́НЬНІЦА, -ы, *ж.* Акенніца. *Зычыні вакеньніцу.* Хвёдараўка Краснап. *У Міхыся вакеньніцы маліваныя.* Людагошч Мсцісл.

ВАКЕ́ШЫЧКА, -а, *н.* Памянш. ад вакно. *Пыглядзі, дочынька, у вакешычка, хто ды нас ідзець.* Горкі Краснап.

ВАКНІ́ЦА, -ы, *ж.* Аконная шыба. *Плакыла Ганнычка ў сьвятліцы,|| Пріклаўшы галоўку к вакніцы.* З нар. песні, М. Г. 50.

ВАКНО́, -а, *н*, Акно. *Гаўрык разьбіў вакно.* Зялёны Луг Мсцісл. *Завесь вакно матыю, каб не нымярзала ряма.* Гібалы Касцюк. *Расчыні вакно, ато вельмі душна ў хаці.* Белы Камень Бялынкав.

ВАКО́ЛІЦА, -ы, *ж.* 1. Ваколіца. *Зайтры ў ваколіцы, вярсты за тры, будзець кірмаш.* Касцюковічы. 2. Вуліца, месца збору, гулянкі моладзі. *Дзе твыя дычка? Пышла ўжу ны ваколіцу.* Высокі Бор Краснап.

ВАКО́НЦА, -а, *н.* Памянш. ад вакно. *У сенцах прареж хуць маленькыя ваконца, каб сьвятлей было.* Залькова Раснян. *Сырая зімля дзьверi зылігла,|| Ваконцы зысланіла.* З нар. песні, М. Г. 16.

ВАКО́ШКА, -а, *н.* Акно. *Трэба мату к вакошку зрабіць.* Хвёдараўка Краснап. *Атчыні вакошка, нешта скажу.* Хоцімск.

ВАЛАКЦІ́ [вало́ч], *дзеясл.* Валачы, несці. *Іна нешта вылыкла ў мяшку.* Васілёўка Хоцім. *Горя горькыя ўсьлед за ім ідзець,|| І торбу нясець, і пугу валачэць.* З нар. песні, М. Г. 157.

ВАЛАСАЖА́Р, -а, *м.* Сузор'е Вялікай Мядзведзіцы. *Ужэ валасажар быў ніска, як мы прыехылі дамоў.* Таўстукі Стрэш.

ВАЛАСЕ́НЬ, -сня, *м.* Нарыў на целе. *Твой валасень ужо і мне ныдаеў, ідзі ты к доктару, хай ён табе яго разрэжа.* Касцюковічы. *У хлопца выласень ны пальцы, узяць нічога ня можыць.* Слабада Раснян.

ВАЛАСЫ́, -оў, *мн. л.* Валасы. *Цурульнік абстрыг валасы хлопчыку.* Пірагова Мсцісл.

ВАЛАСЬНІ́К, -а, *м. бат.* Расліна. *Ат вылысьня луччэй усяго пысыбляя валасьнік, што расьцець пы ялывіным.* Хвёдараўка Краснап.

ВАЛАЦНЯ́, -і, *ж.* Невялікая копка сена. *У стог валацён сорак войдзе. На лузе адна вылацня сена зысталася.* Іванаўка Хоцім.

ВАЛАЦУ́ГА, -і, *м.* Валацуга, чалавек, што ходзіць без работы, гультай. *Ну й валацуга, ты, хаця б ты што-небудзь рабіў.* Касцюковічы. *Ідзі ад мяне, валацуга!* Вародзькава Крыч.

ВАЛАЧО́БНІК, -а, *м.* Валачобнік, удзельнік групы валачобнікаў, хлопцаў, якія на вялікдзень хадзілі з песнямі па хатах. *У нас ужо зараз валачобнікі ны вялікдзень ні сьпіваюць.* Касцюковічы.

ВАЛАЧЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Валачыцца, цягацца. *Ня трэба вылачыцца бяз дзела.* Іванаўка Хоцім. *Правёў быка на йндыка, і сам па сьвету валочыцца.* Хвёдараўка Краснап.

ВАЛАЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Баранаваць па засеяным. *Я буду сеяць, а ты — вылачыць.* Бародзькава Крыч. *Увесь дзень сяньні вылачыў.* Хвёдараўка Краснап. 2. Валачыць што, цягаць. *Біз яды чуць ногі валочыць.* Сохана Мсцісл. *Адбяры ты ў яе дзіцёнка, дос ёй вылачыць яго, як пупала.* Лешчынка Мсцісл.

ВАЛЁНКІ, -нак, *мн. л.* Валёнкі, цёплыя валеныя боты. *Нада аддаць шупувалу зваліць валёнкі.* Слаўнае Мсцісл.

ВАЛЕ́Т, -а, *м.* Валет, назва карты. *Валет, канешня, б'ець сёмку.* Бяседавічы Хоцім.

ВАЛІЎКА, -і, *ж.* Дзікая качка. *Пы раце плавыла валіўка.* Рэкта Клім.

ВАЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Валіцца, падаць. *Уцікай, сысна валіцца.* Старае Сяло Мсцісл. *Я пірістаў ужу на кыньках валіцца, ужу крыху каўзаюся.* Касцюковічы. *Нешта і работа ня ўдзець — усё з рук валіцца.* Пірагова Мсцісл.

ВАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Валіць, збіваць воўну. *Шапувалы прышлі к нам валёнкі валіць.* Добрае Мсцісл. 2. Валіць, падрубваючы, спускаць на зямлю дрэва. *Сёньня трэба іціць валіць лес ны хату.* Канічы Касцюк. 3. Адыходзіць. *Зыбірай сваі мынаткі і валі!* Хвёдараўка Краснап.

ВАЛО́СЬСЯ, -я, *н. зборн.* Валасы. *Спужаўсь я, аж валосься ны гылаве дубум стала.* Бяседавічы Хоцім. *Валосься мала зысталося, скора саўсім лысым буду.* Ракоўшчына Раснян.

ВАЛО́СЬЦЯ, -я, *н. зборн.* Валасы. *Валосьця ны гылаве паблытылась.* Крычаў.

ВАЛО́ЎСЬКІЙ, *прым.* Валоўскі. *Валоўськія аряхі. Накупіў валоўських аряхоў і ўгышчаіць дзевык.* Высокі Бор Краснап.

ВАЛО́Ч, *дзеясл.* Валачы. *Дос табе валоч ету брыду, нашто іна табе.* Іванаўка Хоцім.

ВАЛУ́Й, -я, *м. бат.* Валуй, горкі грыб. *Што ты ныбраў адных валуёў, яны ж горкія.* Пячары Касцюк.

ВАЛЫВАЦЦА, *дзеясл.* Хваляваацца. *Жыта ат ветру валуіцца.* Маластоўка Краснап.

ВАЛЫ́НКА, -і, *ж.* Валакіта. *Валынку зацеіў.* Хвёдараўка Краснап.

ВАЛЬНЕ́Й, *прысл.* Вальней, свабадней. *Я шаўца прасіў, штоб ён вальней зьдзелыў сыпагі, а ён ужу чыряз чур вялікія зьдзелыў.* Арцёмаўка Міласл.

ВА́ЛЬСА, -ы, *ж.* Вальс. *Раней на ігрышчы толькі і скыкалі, што полькі і кадрелі, а цяпер ужо вальсы, тустэпы пычаліся.* Слаўнае Мсцісл. *Нашыя дзеўкі вальсу скачуць.* Горкі Краснап.

ВАЛЯ́НКІ, -аў, *мн. л.* 1. Валёнкі. 2. Валеныя шапкі. *Што ета нашы мужчыны калпакі насіць сталі, і галовы і ногі у валянкі адзяваюць.* Барысавічы Клім.

ВАЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Валяцца. *Сьмяцьцё выляецца пыд ныгамі.* Іванаўка Хоцім.

ВАНДЗО́НКА, -і, *ж.* Ляны, непаваротлівы чалавек. *Ён стаў саўсім, як вандзонка.* Куркаўшчына Мсцісл.

ВАНДРЫВА́НЬНЕ, -я, *н.* Вандраванне. *Твайму вандрываньню і канца ні будзіць — варочайсь ужо дадому скарэй.* Ушакі Чэрык.

ВАНДРЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Вандраваць. *Мой сын паехыў вандрываць у Маскву недзе.* Касцюковічы.

ВАНЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Смярдзець. *Выда з вашыга калодзіся прытыхлю ваніць.* Сохана Мсцісл. *Яйцо ваніць.* Іванаўка Хоцім.

ВАНЗЭ́ЛЫК, -лка, *м.* Невялікі пакунак, завязаны ў хусціну. *Ладымірь пашоў і ванзэлык панёс, а што ў тым ванзэлку — ні пыкызаў.* Горкі Краснап.

ВАНТРО́БЫ, -аў, *мн. л.* Унутраныя органы цела, часцей страўны апарат: страўнік, кішкі. *Каб табе вантробы павырвыла!* (лаянка). Каменкі Раснян. *Вантроба ні прііймаіць гарелкі.* Палуж Краснап.

ВАНТРО́БЬЯ, -я, *н. зборн.* Вантробы. *Выкінь вантробья сыбаку, няхай паесьць. У нашыя аўцы ўсі вантробья пагнілі.* Вярбоўка Раснян.

ВАНЦЫ́ПЫР, -а, *м.* Нячысцік, люцыфар, чорт. *Носіцца, як ванцыпыр.* Палуж Краснап.

ВАНЮ́ЧКА, -і, *ж. бат.* Мяккая трава, цвіце сінім цветам, непрыемна пахне. *Чаго так дренна ванючка выняіць, аж гылыва ад яе зыбаліць, жаўшы? А так во, дык мякінькыя траўка і цьвецік сініінькій, макушычка тыкая.* Арцёмаўка Міласл.

ВАНЮ́ЧЫЙ, *прым.* Ванючы. *Етыя яйцо ванючыя.* Камароўка Крыч.

ВАПЕ́ЛЬНЯ, -і, *ж.* Вапельня, яма, дзе выпальваюць вапну. *Ета вапна доўга ляжыць у вапельні.* Канічы Касцюк.

ВАПЕ́НЬНІЦА, -ы, *ж.* Вапельня. *Вапны ты можыш дыстаць у Рыманавый вапеньніцы.* Касцюковічы.

ВАПЕ́Р, -пра, *м.* Вяпрук, кабан. *Вапра біць ны сала пыра.* Вярбоўка Раснян. *Наш вапер ужу выкырмлін, аж ні ўстаець ад жыру, скора біць будзем.* Арцёмаўка Міласл.

ВА́ПНА, -ы, *ж.* 1. Вапна. *Хату ты можыш пыбяліць вапный.* Касцюковічы. *Ні забудзься вапны купіць, бо сад пара абмазвыць.* Мсціслаў. 2. Гліна. *Я сяньні ныкыпаў вапны.* Хвёдараўка Краснап.

ВАПРУ́К, -а, *м.* 1. Вяпрук, кабан. *Мікіта бегаў за вапруком і ніяк ня мог зыгнаць яго ў хлеў.* Белы Мох Мсцісл. *Забілі к кылідам вапрука.* Юшкавічы Раснян. 2. Непаваротлівы, няўклюдны [няскладны] чалавек. *Ой, якей ты вапрук, дзе ні павернісься — шкоду наробіш.* Хвёдараўка Краснап.

ВАПРУЧО́К, -чка, *м.* Памянш. ад вапрук. *Лянь-ка, які вапручок бегае ны двярэ.* Беразяк Краснап.

ВАР, -у, *м.* Вар, кіпяток. *Засып у вар гарбаты.* Янаўка Мсцісл. *Пылажы яйкі ў вар, дык яны й зваруцца.* Касцюковічы. *Нагрэла вару два чугуны.* Лютня Краснап.

ВАРАЖБА́, -ы, *ж.* Варажба. *Ішчо шмат людзей, якія вераць у выражбу.* Касцюковічы.

ВАРАЖБІ́Т, -а, *м.* Варажбіт, чалавек, што займаецца варажбою. *Гэта ж вядомы варажбіт — ён усё можыць зрабіць.* Ушакі Чэрык.

ВАРАЖБІ́ТКА, -і, *ж.* Варажбітка, жанчына, што займаецца варажбою, варожыць на картах. *Ай, ні кажы, ёсьць цыганкі — добрыя выражбіткі — угадваюць усё.* Касцюковічы.

ВАРАЖЭ́Я, -і, *ж.* Варажбітка. *Сын зыхвареў, нада к выражэі сходзіць, можа скажыць, што зь ім.* Хвёдараўка Краснап.

ВАРАНЫ́Й, *прым.* Вараны, чорны. *Вараны конь пад ім так і ходзіць.* Большая Багацькаўка Мсцісл.

ВАРАЎНЯ́, -і, *ж.* Пограб, яма, у якой хаваюць бульбу ўзіму. *Зачыняй вараўню, ато мароз зайдзе.* Мсціслаў.

ВА́РВА, -а, *н.* Варыва, кіслая страва: капуста, боршч. *Сёньні вельмі ўкусныя варва, лепій за крупеню.* Чыгрынаўка Раснян. *На абед зварілі варвы.* Канава І Касцюк.

ВАРВА́ЦЬ, *дзеясл.* Уварваць. *Мяса зубамі варваць трудна, такоя цьвёрдае.* Палуж Краснап.

ВА́РВУС, -а, *м.* Варвус, вырвас, нахабны і дасціпны чалавек. *Твой сын варвус, нічога ні пыкладзі, усе схопіць.* Самацэвічы Касцюк.

ВА́РВЫР, -а, *м.* Варвар, грубы, дзікі чалавек. *Чылавека ўбіць можыць, варвыр етый.* Краснаполле.

ВАРЗЕ́КАЦЬ, *дзеясл.* Размазваць штонебудзь густое. *Ні варзекый ты етый мыкарон, а рыскачывай хырашо.* Куркаўшчына Мсцісл.

ВА́РІВА, -а, *н.* Варыва. *Ідзі зреж кычанок у гародзі, нада варіва зваріць.* Арцёмаўка Міласл. *Ныкрышы буракоў і троху капусты, зварім варіва.* Слаўнае Мсцісл.

ВАРІ́ЦЬ, *дзеясл.* Варыць. *А што мы сёньні варіць будзім? Шчаўя зваріць нада.* Чыгрынаўка Раснян.

ВАРКУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Варкаваць. *На страхе галубцы варкуюць.* Лешчынка Мсцісл. *Дос вам варкуваць да пайночы, спаць нада.* Лютня Касцюк.

ВАРО́ЖКА, -і, *ж.* Варажбітка, жанчына, што займаецца варажбою, варожыць. *Ідзі, нябож, ды варожкі, іна скажыць, хто ў цябе пыкраў: іна ўсё знаіць.* Вярба Раснян. *Варожка пыкызала ны яго.* Хвёдараўка Краснап.

ВАРО́К, -рка, *м.* Мяшок на грошы, капшук. *Атдай ты мой варок, там жа ўсі мае грошы!* Ушакі Чэрык.

ВАРО́НА, -ы, *ж.* Варона. *На страсе сядзіць варона і ў дзюбі нешта дзяржыць.* Вярба Раснян. *Ні разьзіўляй рот, ато варона ўляціць.* Сохана Мсцісл.

ВАРО́НІНЬКІЙ, *прым.* Памянш. ад вараны́. *Зыпряжы ты свайго варонінькыга.* Большая Багацькаўка Мсцісл. *Варонінькій конік.* Шыркі Раснян.

ВАРО́ТЫ, -аў, *мн. л.* 1. Вароты. *У пуні вароты з завес зваліліся, і сьнегу набіла ў пуню.* Арцёмаўка Міласл. *Вароты зачыніў, а хвортку не.* Хвёдараўка Краснап. 2. Дзіцячая гульня. *Дзеці гуляюць у вароты, бяжы да іх.* Шарэйкі Касцюк.

ВАРО́ЧЫНЫЙ, *прым.* Варочаны. *Ні чыпай етыга сена, ета сена варочыныя.* Палуж Краснап.

ВАРО́ЧЫЦЦА, *дзеясл.* Варочацца, завіхацца. *Барджэй ты варочыйся: туча нахо-*

*дзіць, а сена ня гребіна.* Гібалы Касцюк. *Яна ў рабоці ня крута варочыіцца.* Хвёдараўка Краснап. *Пымалу ты варочыйсь кыла посыду, ато рызаб'ешь.* Арцёмаўка Міласл.

ВАРО́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Варочаць. *Я буду зь етыга боку варочыць, а ты з таго аткасывый.* Пірагова Мсцісл. *Пыра ўжу сена варочыць.* Горкі Краснап.

ВА́РТА, -ы, *ж.* Варта [ахова]. *Кыла вастрогу ўсягды стаіць варта, каб ні ўцікалі.* Слаўнае Мсцісл. *Вунь якую варту зывёў пан — баіцца, каб ні забілі.* Ушакі Чэрык. *Ці выставіла пыжарныя дружына сяньні варту?* Касцюковічы.

ВА́РТА, *прысл.* Годна, варта [дастойна]. *Іна ўжо нікуды ні варта, кінуць толькі.* Дубеец Касцюк. *Пашыў ты мне сірьмягу, нікуды ні варта.* Тур'е Чэрык.

ВАРТАВА́ЦЬ, *дзеясл.* Вартаваць, сцерагчы, пільнаваць. *Хто сёньні ідзе ў вас вартаваць?* Касцюковічы.

ВАРТАЎНІ́К, -а, *м.* Вартаўнік, той, хто вартуе. *Нічога наш вартаўнік ня стоіць, сёньні коні на жыці було дужа многа.* Касцюковічы. *Вартаўнік ходзя кругом крамы.* Маластоўка Краснап.

ВАРТУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Вартаваць. *Хлопцы, пойдзім вартуваць сіньжаць, ато зыдзяць коні траву.* Ушакі Чэрык.

ВА́РТЫЙ, *прым.* Варты. *Ён, напэўна, гэтага й вартый, што яго ніхто ня любіць.* Прусіна Касцюк. *Аплюгавіў ён мяне, як бы я ўжо і нічога ня вартый.* Пірагова Мсцісл.

ВАРУШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Варочаць, пераварочваць. *Трэба ўжо сена варушыць, ато яно так ня высыхніць.* Касцюковічы.

ВА́РФЫЛ, -у, *м.* [Вэрхал], трывога. *Як узыйшоў воўк на вёску, як пыднялі сыбакі варфыл.* Куркаўшчына Мсцісл.

ВА́РХЫТ, -у, *м.* Вэрхал, бесталковы шум, гам. *Ны бызарі цыганы з яўреімі кыла нашыга возу як сталі тургуваць кынямі, дык такей вархыт пыднялі, што аж гылаву адурілі.* Арцёмаўка Міласл. *Зайшоў я, а яны там за нешта сваріліcь, дык такей вархыт пыднялі, што й ні замецілі мяне.* Краснаполле.

ВАРЧА́К, -а, *м.* Ворчык, прылада для прыпрагання коней. *Ехыў, ехыў ды ўчапіў у пень, аж варчак піріламіўсь, добра, што ў лесі: другей зьдзелыць можна.* Шарэйкі Касцюк.

ВАРЧАКО́ВЫЙ, *прым.* Ворчыкавы, прыпражны. *Ні далі нам варчаковыга кыня, прышлось ехыць на адным.* Ушакі Чэрык.

ВА́РЫВА, -а, *н.* Варыва. *Улі мне, галубка, у міску варыва.* Лютня Краснап. *Дзеці елі варыва.* Ганнаўка Клім. *Матка сёньні нывырыла смашныга варыва.* Вярбоўка Расням.

ВАРЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Варыцца. *Буйна ты бульбу пыкрышыла, варыцца будзіць доўга.* Ушакі Чэрык.

ВАРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Варыць. *У млечарні вараць сыр.* Тур'е Краснап. *Снытку можна варыць, як шчавіль, толькі мыладую.* Хвёдараўка Краснап.

ВА́РЬВА, -а, *н.* Варыва. *Ці будзіш есьць варьва, ці крупені наліць?* Вербеж Чэрык. *Атнясі ў поля бацьку абед: варьва і яшную крупеню з мылаком.* Гібалы Касцюк.

ВАРЭ́ЙКА, -і, *ж.* Гаршчок. *Варэйка разьбілыся, не ў чым варыць.* Ясінь Краснап.

ВАРЭ́НЬНЕ, -я, *н.* Варэнне. *З брушніц палучаіцца смашныя варэньне.* Пірагова Мсцісл.

ВАСІЛЁ́К, -лька, *м. бат.* Валошка. *Васількі ў жыце зацьвілі.* Слабада Расням. *Нарві васількоў ды вянок сплящём.* Ясінь Краснап.

ВАСІ́ЛЬ, -я, *м.* Уласнае імя Васіль. *Васіль з Андреім паехылі ў лес.* Горкі Краснап.

ВАСПО́ЛЬЗА, -а, *ж.* Карысць, польза. *Ат етыя рады німа васпользы нам.* Палуж Краснап.

ВАСПО́ЛЬЗЫВЫНЫЙ, *прым.* Выкарыстаны. *Урeмя васпользывыныя хырашо, ды адной мінуткі.* Маластоўка Краснап.

ВАСПО́ЛЬЗЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Скарыстаць [атрымаць выгаду]. *Васпользывыўсь з чужой бяды.* Высокі Бор Краснап.

ВАСПО́ЛЬЗЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Скарыстаць, выкарыстаць. *Зьмерзлую картошку васпользывыць можна на крухмал.* Краснаполле.

ВАСЬМЕ́РНІ, -рань, *мн. л.* Тканіна, палатно, тканае ў восем нітоў. *Дужа цяжка ткаць васьмерні, ета ж восім нітоў, пакуль іх усі пріладзіш.* Слаўнае Мсцісл.

ВАСЬМІНІТО́ВЫЙ, *прым.* Вытканы ў восем нітоў. *У мяне ёсьць васьмінітовыя скацірка.* Хвёдараўка Краснап.

ВАТНІ́ЦА, -ы, *ж.* Вопратка, пашытая на ваце. *Маці пашыла мне новую ватніцу.* Глінь Касцюк.

ВАТО́ЎКА, -і, *ж.* Адзежына на ваце. *Ватоўку сваю пыткклала мехым і зрабіла сабе цёплыю шубу.* Пірагова Мсцісл.

ВАТРО́ЎКА, -і, *ж.* Ятроўка, жонкі родных братоў адна для адной. *Ватроўкі ніколі ні жывуць ціха.* Краснаполле.

ВАЎКО́ВЫ ЯГЫДЫ, *бат.* Воўчыя ягады, крушына. *Ня еш ваўковых ягыд, будзе жывот балець.* Брылёўка Краснап.

ВАЎКУВА́ТЫЙ, *прым.* Трохі недасушаны, вільготны. *Ваўкуватыя сена нельга кідаць у стог, можа згарэцца.* Куляшоўка Клім.

ВАЎРЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Спацець. *Гэта ж у вас у хаце такая духота, што можна ваўрэць.* Касцюковічы. *Сяньні на печы можна ваўрэць, што ў лазьні.* Лешчынка Мсцісл.

ВАЎЧА́НІЦА, -ы, *ж. бат.* Кустарнік. *Калі зайдзіш у лес і ўбачыш прыгожыя красныя ягыды на кусту — ня еж іх, гэта ваўчаніца.* Пірагова Мсцісл.

ВАЎЧКІ́, -оў, *мн. л.* Зубы ў каня. *Калі каню тры гады, дык ён скідая ваўчкі.* Хвёдараўка Краснап.

ВАЎЧО́К, -чка, *м.* Рыба дробная. *Нылавіў ваўчкоў. Ваўчок — рыбка, схожыя акурат на плоць.* Хвёдараўка Краснап.

ВАЎЧЫ́НЫЙ, *прым.* Воўчы. *Знайшлі ваўчыныя лагво.* Палуж Краснап. *Там ваўчыныя логыва.* Хвёдараўка Краснап.

ВАЎЧЫ́НЫЯ ЯГЫДЫ, *бат.* Воўчыя ягады, крушына. *Ня еж ваўчыных ягыд. Ваўчыныя ягыды растуць на крушыні.* Слаўнае Мсцісл.

ВА́ХНЫЛЬ, -я, *м.* Вухналь, цвік, якім прыбіваюць падкову да капыта. *Вахныль*

*ніяк ні зыгнаць у капыт.* Хвёдараўка Краснап.

ВАХРА, -ы, *ж.* Кутасы ў хустцы. *Дзеўка купіла платок з доўгыю вахрою.* Самацэвічы Касцюк.

ВАШЧЫ́НА, -ы, *ж.* Вашчына, соты. *Сёліта пчолы сусім мёду ні далі, адна вашчына.* Слаўнае Мсцісл. *Вашчына ўся мёдым запоўніна.* Горкі Краснап.

ВАШЭ́ЦЬ, -я, *м.* Вашэць, ягомасць, ваша мосць, зварот да чалавека, якога імя не ведаюць. *Садзіцеся, вашэце, за стол.* Лапаціна Мсцісл.

ВАЮ́Н, -а, *м.* Уюн [рыба]. *У твані шмат ваюноў.* Варадзькава Крыч.

ВЕ́ДАЦЬ, *дзеясл.* Ведаць, знаць. *Ці ні ведаіце вы дзе муляра, каб памог дом кончыць.* Ушакі Чэрык. *Ты яшчэ блізьнюк, мала што ведаеш.* Студзянец Касцюк. *Мыя бабушка ведаець многа ныгавораў: і ад зьмяі, і ад ведзьм, каб мылако ні 'дбіралі ў кароў.* Пірагова Мсцісл.

ВЕ́ДЗЬМА, -ы, *ж.* Ведзьма. *Ну і страшныя іна, як ведзьма, такоя пудзіла як вылізе — усі коні паўцікаюць.* Парадзіна Мсцісл. *Длі мяне сьвякрова — ведзьма прыліхая.* Палуж Краснап. *У нас такей звычый, што пад Івана Купалу дзеўкі і хлопцы даўжны гуляць і сьцяреч ведзьму поўную ноч.* Канічы Касцюк.

ВЕ́ДЗЬМАК, -а, *м.* Вядзьмак. *Ігнась етый — ведзьмак вялікі, ён жа ны вясельлі як зробіць, дык усі будуць скыкаць і плакыць.* Юр'евічы Клім.

ВЕ́ДЫМА, *прысл.* Вядома, ведама. *Цяжка яму жывецца, як ведыма, адзінокыму чылавеку.* Лешчынка Мсцісл. *Каб ета ведыма було, што столькі гасьцей наедзіць, дык ба большы чаго ныгутувалі.* Арцёмаўка Міласл. *Бяз ведыма мяне нічога ні рабіця.* Канічы Касцюк.

ВЕ́ДЫНЬНЯ, -я, *н.* Веданне. *Ці ведыньня ета, што ты прідзіш у госьці, хоць ба прыгытываўся.* Слаўнае Мсцісл.

ВЕ́ДЫЦЬ, *дзеясл.* Ведаць, знаць. *Угрузіў кыня ў дрыгву, а цяпер ня ведыю, як выцігнуць.* Палуж Краснап. *Каб мы знали, каб мы ведылі, ‖ Куды наш брат паедзіць.* З нар. песні, М. Г. 9.

ВЕ́ЗЬЦЬ, *дзеясл.* Везці. *Пыд гару везьць воз дужа цяжка.* Лешчынка Мсцісл. *Нада везьць жыта ў пруд малоць.* Вербеж Чэрык.

ВЕ́ІЛКА, -і, *ж.* Арфа, веялка. *Змылацілі пяць вазоў жыта і на веілку зярно піравеілі.* Сохана Мсцісл.

ВЕ́ІЦЬ, *дзеясл.* 1. Веяць (зярно). *Мы ўжо кончылі мылацьбу, зайтра будзім веіць.* Куляшоўка Клім. 2. Веяць (ветру). *А с пыд гаю, гаю веціp веіць, ‖ Кызачынька пшанічыньку сеіць.* З нар. песні, М. Г. 112.

ВЕ́К, -у, *м.* Век, перыяд жыцця чалавека. *Ты навіт люцкай сьвіткі ні маіш — за ўвесь век ні мог здабыць сабе.* Ушакі Чэрык.

ВЕК-ВЯКО́М, *прысл.* 1. Заўсёды, на працягу доўгага часу. *Ён век-вяком гультайнічае.* Прусіна Касцюк. 2. Ніколі. *У веквякоў я ні прашчу яму — ета ж нада, такую абіду нанёс!* Добрае Мсцісл.

ВЕ́КА, -а, *н.* Века. *Здымі ж века з дзіжы, ато хлеб ні падойдзіць.* Ушакі Чэрык. *Зьнімі зь дзежкі века.* Хвёдараўка Краснап.

ВЕКАВЕ́ЧНЫЙ, *прым.* Векавечны. *Ну й дуб ны тваей пыласе, ён, напэўна, векавечны.* Пушкова Касцюк.

ВЕ́ЛЬМА, *прысл.* Вельмі, надта. *Сяньні вельма дрэнная пагода.* Добрае Мсцісл.

ВЕ́ЛЬМІ, *прысл.* Вельмі, надта. *Вельмі добры быў труднік Язэп.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Мне вельмі спадыбаецца алей.* Шумячы. *Брусок у граблях вельмі тоўсты.* Пухнава Раснян.

ВЕ́НІК, -а, *м.* Венік. *Ягор зьвязаў бярозавы венік.* Зялёны Луг Мсцісл. *Дай яму, сяньні прачухаіцца, будзя помніць да новых венікаў.* Хвёдараўка Краснап. *Узяў венік ды давай пліскаць на ўсіх вадой.* Ушакі Чэрык.

ВЕ́НІЧЫК, -чка, *м.* Памянш ад венік. *Бярыця, дзевычкі, венічкі, ‖ Мяціце вуліцу ды кынца.* З нар. песні, М. Г. 19. *Ладный венічык я зьвізаў.* Вербеж Чэрык.

ВЕ́НЧЫК, -а, *м.* Памянш. ад вянок. *Дарую я віріб'я, і з галоўкі венчыкам, ‖ З правыя ручкі персьнікым.* З нар. песні, М. Г. 62.

ВЕ́РА, -ы, *ж.* Вера, давер'е. *Я яму нізашто ні няў веры.* Кажамякіна Краснап. *Ты раз падвёў, дык цяпер табе веры німа.* Вербеж Чэрык.

ВЕРАБЕ́Й, -б'я, *м.* Верабей. *Верабей вішню клюець.* Пабкі Раснян. *Ідзі згонь вераб'ёў з кынапель.* Студзянец Касцюк.

ВЕРАБІНЯ́ТКА, -а, *н.* Верабянятка, вераб'яня. *Сёньні наш кот паеў усіх верабінятык, што былі вывяліся ў гнязьдзе пыд страхою.* Касцюковічы.

ВЕРАДЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Дэспатычна распараджацца кім-небудзь. *Дакуль ты будзеш верадываць мною, дакуль будзіш зьдзекывыцца?* Тупічын Мсцісл.

ВЕРАНІ́НА, -ы, *ж.* Вінегрэт. *Ах, елі ўсякую вераніну.* Хвёдараўка Краснап.

ВЕ́РАС, -у, *м. бат.* Верас. *Верас — сухая трыва, яе пазьней усяго ўбачыш у лесі па восені.* Пірагова Мсцісл.

ВЕРАЦЯНО́, -а, *н.* Верацяно, прылада працi пражу. *Бяры верацяно і садзісь прасьць.* Маластоўка Краснап.

ВЕ́РБА, -ы, *ж.* Вярба. *Вясною, як вярба атсычаіць, тады ладна зьнімающца дудкі.* Слаўнае Мсцісл. *Ета будзіць тады, як на вербі ігрушы вырастуць* (гаворыцца пра штонебудзь нязбытачнае). Башары Раснян.

ВЕРБАЛО́З, -у, *м.* Вербалоз, асобны від лазы, з лістамі, як у вярбы. *Вербалоз кыля рэчкі пачынае ўжо распускацца.* Добрае Мсцісл. *Трэба нарэзыць вербалозу ды сплясьці кошык.* Мацутаўка Раснян.

ВЕ́РВІЧ, -а, *м.* Месяц, у які бывае вербная нядзеля. *Ужо вербіч ны дваре, чіряз тыдзень будзіць вербныя нядзеля.* Барысавічы Клім.

ВЕ́РБНІЦА, -ы, *ж.* Вербніца, вербная нядзеля. *Скора вербніца, вы, хлопцы, хуць ба вербы пыставілі ў бутэлькі, каб распусьцілыся.* Цірэні Раснян.

ВЕ́РЗЬЦЬ, *дзеясл.* Вярзці, гаварыць небыліцы. *Ды перыстань ты ўжо верзьць, што сьліна к губе прынясець, слухаць нялюба.* Башары Раснян.

ВЕ́РНА, *прысл.* 1. Напэўна. *Верна зіма скора настаніць, калі так рана гусі ліцяць у вырый.* Андраны Раснян. *Пыглядзі-ка, у пылатне скрозь усё цягніцца блюзьня, верна*

*нітка пырвалыся, а ты ні замеціла.* Слаўнае Мсцісл. 2. Верна. *Рятуй, рятуй, мыя міла, ‖ Кылі верна любіла.* З нар. песні, М. Г. 137.

ВЕ́РНЫЙ, *прым.* Верны. *Мой верный абаронца — кій сукуватый.* Пірагова Мсцісл. *Там верный чарвоніц будзіць за тры дні — ідзём туда работыць.* Бяседавічы Хоцім.

ВЕ́РТКІЙ, *прым.* Вёрткі, лёгкі ў руках. *Наста — вёрткыя дзеўка, лоўка скачыць.* Палуж Краснап.

ВЕРХ, -а і -у, *м.* Верхавіна, вяршына. *Ляцеў сылавей чэріз трі лясы, чэріз чатырі, ‖ Ай ны пятым лясе сеў сабе ны вярсе.* З нар. песні, М. Г. 13.

ВЕРХАВО́ДКА, -і, *ж.* 1. Неглыбокая грунтовая вада. *Тут погрыба нельга выкыпаць, верхаводка затопіць.* 2. Дробная рыбка. *У нашый ряке толькі 'дна верхаводка, а пырядычный рыбы німа.* Вародзькава Крыч.

ВЕ́РХІ, *прысл.* Вярхом, конна. *Верхі ны злодзія ўсьсеў ды дувай яго душыць.* Палуж Краснап.

ВЕ́РХНІЙ, *прым.* Верхні. *Жаночыя сарочка шыецца з двух частак: верх і ніз, верхнія частка завецца чэхлікам.* Машавая Бялынкав. *Адбі верхнію дошку мылатком.* Мсціслаў.

ВЕРХНЯ́К, -а, *м.* Верхняя перакладка вушакоў. *Верхняк асеў, і дзьверы не зачыняюцца.* Пухнава Раснян.

ВЕ́РША, -ы, *ж.* Верша, прылада лавіць рыбу. *У вершу налезла бытата рыбы.* Хвёдараўка Краснап.

ВЕРЫЙНЯ́, -і, *ж.* Верая, шула, у якое прымацоўваюцца вароты. *Верыйню нада новыю зьдзелыць, ато вароты ня дзержыцца. Верыйня дзяржыць вароты.* Пухнава Раснян.

ВЕ́РЫС, -у, *м.* бат. Верас. *Ны нашым узвальлі сёліта зырадзіў адзін верыс.* Добрае Мсцісл.

ВЕ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Верыць. *Сідыр ня верыць мне, а я яйбогу ня быў там.* Палуж Краснап. *Ня вер ты етыму 'бманшчыку, абманець ён цябе.* Белы Камень Бялынкав.

ВЕ́РЬБА, -ы, *ж.* Вярба. *Калі на верьбі адсычае кара, будзем зьнімаць дудкі.* Гібалы Касцюк.

ВЕРЯЦЕ́НЬ, -я, *м.* Верацяно з пражаю. *У мяне ўжо верявень пяць нітак адсучына.* Старае Сяло Мсцісл.

ВЕРЯШЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Крычаць, шумець. *Досыць табе ўжо веряшчаць, нічога ня чуваць зы тваім крыкам.* Гібалы Касцюк.

ВЕСАЖО́Р, -а, *м.* Сузор'е. *У Весажоры сем зор.* Хвёдараўка Краснап. *Весажор ужо нізка спусьціўся, днець скора будзіць.* Пухнава Раснян.

ВЕ́СІЛА, *прысл.* Весела. *Ат зьвёздычык, браціц, табе весіла будзіць.* З нар. песні, М. Г. 131.

ВЕ́СКА, -і, *ж.* Вёска. *Быў у нашый вёсцы асілык, дык ён усіх пабо́рый.* Старае Сяло Мсцісл. *У нашый вёсцы згарэў будынык.* Шумячы. *Вёска ад вёскі на пыўвярсты.* Сапрынавічы Мсцісл.

ВЕСТАВЫ́Й, *м.* Кур'ер, лістаносец, паштар. *Веставый пісьмы разнося.* Хвёдараўка Краснап.

ВЕ́СЬЦІСЯ, [весца], *дзеясл.* Весціся. *Вёўся хлеб ды вясны, а з вясны ўжо німа.* Хвёдараўка Краснап.

ВЕ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Весці. *Яму толькі баньку ў грыбы* [губы] *ўдзець, ды й весьць ны пыказ.* Хвёдараўка Краснап.

ВЕТАШО́К, -шка, *м.* Памянш. ад ветах; месяц у апошняй квадры. *Веташок ужо ўзышоў.* Кокатава Мсцісл.

ВЕ́ТКА, -і, *ж.* Галінка. *Птушка піріпархувыя зь веткі на ветку.* Палуж Краснап. *Нада яловых ветык нылымаць: прыбраць школу к сьвяту.* Сохана Мсцісл.

ВЕ́ТЛІВА, *прысл.* Ветліва, пачціва. *Ветліва пыздароўкыўся.* Гібалы Касцюк.

ВЕ́ТЛІВЫЙ, *прым.* Ветлівы, пачцівы. *Хлопіц ветлівый, усігда здароўкыіцца перьвый сы старшымі.* Аляксандраўка Краснап.

ВЕ́ТРІК, -а, *м.* Памянш. ад вецер. *Ветрік павіваець.* Іванаўка Хоцім.

ВЕ́ТРІНІК, -а, *м.* Легкадумны чалавек, ветранік. *Іму б толькі гулязь, ветрінік такей, ды работы яго ні зыцягніш.* Палуж Краснап.

ВЕ́ТРЫНЬНІК, -а, *м.* 1. Флюгер. *Пылядзі на ветрыньнік — куды вецір дмець.* 2. Ветраны чалавек. *Ён бальшэй ветрыньнік, нічога сталага ня маіць.* Хвёдараўка Краснап.

ВЕ́ТРЫЦЬ, *дзеясл.* Сушыцца на ветры. *Ніхай бяльлё ветрыіць.* Палуж Краснап.

ВЕ́ХАЦЬ, вехыць, -хця, *м.* 1. Падмазка, кавалачак сала падмазваць скавараду. *Кепскій вехаць, не масьліць скывырады.* Бялішчына Мсцісл. 2. Вехаць, шматок мачалы, якім мыюць гаршкі. *Памый судно вехцім.* Хвёдараўка Краснап. *Кызаў нам вехыць удвору ехыць, а кызала ступа: ды гуляйця тута.* Прыказка. Большая Багацькаўка Мсцісл. 3. Стары венік, дзяркач. *Адзьдзяры гра(я)зь ны масту вехцім.* Там жа. 4. Шматок, невялікая колькасць. *Дай каню вехаць сена.* Касцюковічы.

ВЕ́ЦІР, ветру, *м.* Вецер. *Вецір зламіў макушку бярёзы.* Хвёдараўка Краснап. *У лесі было заціншна ат ветру.* Сохана Мсцісл.

ВЕ́ЦЬЦЯ, -я, *н. зборн.* Вецце, галлё. *Нада веццья аблымаць, ды надзелыць венікый.* Палуж Краснап. *Нехта ў нашый каліны ўсё веццья пылымаў.* Лешчынка Мсцісл. *Зы гарою бярёза веццья гнець, ‖ Там наша Мыланка вянкі ўець.* З нар. песні, М. Г. 8.

ВЕ́ЧАР, -а, *м.* Вечар, канец дня. *Сонца нізка — вечар блізка.* Дзісканіта Мсцісл.

ВЕЧАРУ́ХА, і-, *ж.* Вечар перад вяселлем у маладой. *Усе дзяўчаты пашлі ны вечаруху да Ўдоцьці.* Ганнаўка Клім.

ВЕЧАРЫ́НКА, -і, *ж.* Вечар з гульнямі, скокамі. *Ны вечарынцы скачучы, усе боты пабіў.* Крычаў.

ВЕЧАРЫ́ШЧА, -а, *м.* Павеліч. ад вечар. *Каму вечыр, каму вечыр, ‖ А мне вечарышча.* З нар. песні, М. Г. 27.

ВЕ́ЧНЫЙ, *прым.* Вечны [заўсёдны]. *У іх вечны ніпырадык — усё сваруцца.* Добрае Мсцісл. *І навошта гэста вечныя прэчка — вось абы толькі гыварыць ні так, як я.* Ушакі Чэрык.

ВЕЧЭРУ́ШКІ, -шак, *мн. л.* Вячоркі, вечары ўзімку, калі збіраюцца дзяўчаты ў адну хату з работаю, часцей прасці. *На вечэрушкі сёньня прыдуць хлопцы.* Бель Мсцісл.

**ВЕ́ШАЦЬ**, *дзеясл.* Вешаць. *Не злымай курчыну, ня будзе на што адзежу вешаць. У шафу вешаюць вопратку.* Барысавічы Клім.

**ВЕ́ШАЦЦА**, *дзеясл.* Вешацца, чапляцца. *Іна кожныму на шыю вешыцца.* Ушакі Чэрык.

**ВЕ́ШНА**, *прысл.* Вечна [заўсёды]. *Злодзій вешна сядзіць у турме.* Бялішча Мсцісл. *Во такі ўжо брыкун, вешна хахочыць.* Слаўнае Мсцісл.

**ВЕ́ШЧ**, -ы, *н.* Рэч. *Находную вешч нада аддаць назад. Добрыя вешч — біклажка.* Слаўнае Мсцісл.

**ВЕ́Я**, -і, *ж.* Завіруха, мяцеліца. *Ны дваре тыкая вея, сугробы, дык ня вылізіш, пынамітала.* Слаўнае Мсцісл. *Пад вечыр пыднілася вея.* Кажамякіна Крыч.

**ВЕ́ЯЛКА**, -і, *ж.* Веялка, машына, што збожжа вее, арфа. *На веялцы азадный ячмень ідзець у ніжнае рэшата.* Пірагова Мсцісл.

**ВЗВЫРУШЫ́ЦЬ**, *дзеясл.* Зварушыць. *Штоб пыдняць етый камінь, нада чылавекі два-трі, мне чуць удалось взвырушыць яго зь места.* Бяседавічы Хоцім.

**ВІД**, -а, -у, *м.* Твар. *Ён на від дужа красівый.* Слаўнае Мсцісл. *Дзеўка нішто, толькі від васпыватый.* Пабкі Раснян.

**ВІДАЦЬ**, *дзеясл.* Відаць. *Блізка відаць, ды далёка дыбаць.* Прыказка. Старынка Раснян. *Відаць зразу, што з Мыскаўшчыны прыехаў — чаю па сем стыканыў п'ець.* Добрае Мсцісл. *Якыў, відаць, выпіўшы быў: цьвярёзый ён ні скызаў бы етага.* Чарнарэчкі Раснян.

**ВІДЗЕ́ЛЬЦЫ**, -аў, *мн. л.* Відэльцы. *Дайце мне відзельцы да сала, ато рукамі ня дужа добра.* Гарадзец Краснап.

**ВІ́ДЗЕЦЬ**, *дзеясл.* Бачыць. *Відзіш, як я сабе руку акалечыў.* Мацутаўка Раснян. *Удзень мне нітку ў іголку, ато я ня віджу.* Слаўнае Мсцісл.

**ВІДЗІ́ШЧА**, -а, *н.* Павеліч ад від. *Пыглядзі, сьвінішча, ны сваё відзішча.* Маластоўка Краснап.

**ВІДЗЬМАК**, -а, *м.* Вядзьмак, чараўнік. *Усі быяліcь яго, бо ён жа быў відзьмак — усякыю злыбіду можыць зрабіць.* Ушакі Чэрык.

**ВІ́ДНА**, *прысл.* 1. Відна [светла], ясна. *Ноччый відна — круг (поўня) ныстаў.* Горна Краснап. *Ноччу месік сьвяціў, была відна, як удзень.* Арцёмаўка Міласл. 2. Мабыць, напэўна. *Відна, падгерiць слабы, што зад у калёсах адломан.* Крычаў. *Відна, тут град быў: бач, як жыта паблытана.* Новыя Капачы Мсцісл.

**ВІДНЕ́ЦЦА**, *дзеясл.* 1. Днець, займацца на дзень. *Пычало віднецца, ік мы вышлі з дому.* Ракаўшчына Раснян. 2. Паказвацца, выглядаць. *С-пыд кыбата віднелыся вышываныя сарочка.* Слаўнае Мсцісл.

**ВІДНЕ́ЦЬ**, *дзеясл.* Днець, займацца на дзень. *Ужо стала віднець, скора дзень будзе.* Іванаўка Хоцім.

**ВІ́ДНІНЬКА**, *прысл.* Памянш. ад відна. *Ат месічка стала віднінька ўсюды.* Мацутаўка Раснян.

**ВІ́ДНЫЙ**, *прым.* 1. Светлы, відны. *Ноч тыкая відная — як удзень.* Ушакі Чэрык. 2. Сталы. *Етый чылавек на погляд такій відный, што ўнушаіць даверія.* Слаўнае Мсцісл. 3. Павабны, здаровы на выгляд. *Ні глядзі, што етый конь відный, а ён хвальчывый.* Маластоўка Краснап.

**ВІДНЯ́**, *прысл.* Відна, відаць. *Зыпрятыўся ў лог і ня відня.* Хвёдараўка Краснап.

**ВІДЭ́ЛЬЦЫ**, -аў, *мн. л.* Відэльцы. *Пятрусь паламаў відэльцы, а цяпер і есьці нечым.* Верба Раснян. *Відэльцы ляжаць на стале, вазьмі.* Беразяк Краснап. *Вот табе нож, вот відэльцы — рэж мяса!* Пірагова Мсцісл.

**ВІЗА́ЦЬ**, *дзеясл.* Вязаць. *Вазьмём з сабою ў лес лязцо — будзем венікі візаць.* Бабінкі Раснян.

**ВІКАВЕ́ШНЫЙ**, *прым.* Вечны, заўсёдны. *Пьяніца ён вікавешный, яго ўжу нічым ня ўдзержыш, ён і памрець калі-небудзь пыд заборым.* Арцёмаўка Міласл. *Вікавешный дуб.* Горкі Краснап.

**ВІКАВУХА**, -і, *ж.* Векавуха, старая дзеўка. *Ёй ужу трiцыць гадо́ў, етый дзеўкі, ніхто замуж ні бярэць, іна ужу, відна, будзіць вікавуха.* Арцёмаўка Міласл.

**ВІКАВЫ́Й**, *прым.* Вечны. *Вот табе, татухна, нізкій паклон, ‖ Ат мяне, ат князя мыладога, ат мяне, сіраты вікавога.* Багацькаўка Мсцісл.

**ВІЛАТЫЙ**, *прым.* Вілаваты. *Вілатыя сыха.* Хвёдараўка Краснап.

**ВІЛІГУ́Р**, -а, *м.* Чалавек, што многа пра сябе думае, узносіцца. *Вун віліґур пашоў.* Хвёдараўка Краснап.

**ВІЛІЗА́РНЫЙ**, *прым.* Павеліч ад вялікі. *Прііжджаў нейкій пан у дзярэўню, апрянутый у хутру, з вілізарным, кысматым куўнярём.* Слаўнае Мсцісл.

**ВІЛІНО́К**, -нка, *м.* Птушка ўвелічыню з жаваранка. *Як прыгожа расьпявае вілінок.* Хвёдараўка Краснап.

**ВІ́ЛКІ**, -лак, *мн. л.* Вілы драўляныя для саломы і жалезныя для гаршкоў. *Дубовыя вілкі хоць цяжкія, але вельмі моцныя.* Пухнава Раснян. *Пыстаў вілкі ў кычарэжнік.* Бабінкі Раснян. *Стала я сяньні дыстываць абед, ды неік пывярнулісь ў мяне ў руках вілкі, і абярнула дыгары ныгамі махотку.* Арцёмаўка Міласл. *Кыла печы ў кутку стаіць кычырга і двое вілак.* Пірагова Мсцісл.

**ВІ́ЛЫ**, -аў, *мн. л.* Вілы. *Сена зьлежылысь у трысьцені, дык яго хыраш о браць — пластом так і пыднімаіцца на вілы.* Арцёмаўка Міласл.

**ВІ́ЛЫШНІК**, -а, *м.* 1. Вілачнік, палка, на якую насаджваюцца вілы да гаршкоў. *Вілышнік згарэў, нада зрабіць другей.* Хвёдараўка Краснап. 2. Качарэжнік, месца, дзе ставяць вілы, качаргу. *Пыстаў кучаргу ў вілышнік.* Там жа.

**ВІ́ЛЬГАЦЬ**, -і, *ж.* Вільгаць. *Сяньні ны дваре тыкая вільгаць, хоць ты ні выхадзі нікуды.* Добрае Мсцісл.

**ВІ́ЛЬЧЫК**, -а, *м.* Вільчык, самы верх страхі, грэбень, дзе сходзяцца абодва бакі. *Вільчык недакрыты, дык працякае ў дождж,* Бабінкі Раснян. *Ластаўка сядзіць на самым вільчыку на страсе.* Дубеец Касцюк. *Узлез на самы вільчык страхі.* Казённая Буда Краснап.

ВІЛЯХВОСТ, -а, *м.* Чалавек, што «віляе хвастом», падліза. *Ай, ня слухай ты етыха віляхвоста, сяньні так, а заўтрі другоя зыпяець.* Слаўнае Мсцісл.

ВІНА, -ы, *ж.* Віна. *Віна ў етым ні мыя, што так стала — я етыга ні хацеў.* Цірэні Раснян.

ВІНАВАТЫЙ, *прым.* Вінаваты. *Ежлі ваша група не рабіла нічога, дык ніхто вам ні вінават.* Лар'янава Мсцісл. *Яго дык і стоіць біць, бо ён вінаваты.* Касцюковічы.

ВІНАКУРНЯ, -і, *ж.* Бровар. *Тут была панскыя вінакурня, ды згарела ў рівалюцыю.* Палуж Краснап.

ВІНІГРЭТ, -а, *м.* Вінегрэт. *Атварі бурачкоў, бульбы, а я прінісу агуркоў, і зьдзелыім вінігрет на сьніданьне.* Хвёдараўка Краснап.

ВІНІЦЬ, *дзеясл.* [Вінаваціць]. *І вініць некыга — сам зьдзелыў.* Горкі Краснап.

ВІННЫЙ, *прым.* 1. Вінаваты. *Ён у гетым ні вінны: на нівінныга ныпалі.* Цірэні Раснян. 2. Вінны. *Вінныя ягыда, вінныя яблыкі.* Янаўка Раснян. *А плавыла вінныя чара ў віннаре, ‖ А плакыла Ганутычка ў каморе.* З нар. песні, М. Г. 33.

ВІННЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Віна, вінаватасць. *Тут зусім ні пры чом яго віннасць, і ныпыдаць ны яго німа чаго.* Добрае Мсцісл.

ВІНО, -а, *н.* Віно. *Ці ведаеш, мо твайму хворыму каб віна купіў, царкоўныга, мо пымагло б.* Арцёмаўка Краснап. *Ёсьць у мяне длі бабусі бочычка віна. ‖ Ня гневыйся, бабусічка, што йна ні пыўна: ‖ Сы пічалі, сы кручіны сыма атпіла.* З нар. песні. Багацькаўка Мсцісл.

ВІНОЎНЫЙ, *прым.* Вінаваты. *Пу праўдзі скызаць, ён у етым дзеле саўсім ні віноўный, а яго прісудзілі ны два гады астрогу.* Бяседавічы Хоцім.

ВІНТ, -а, *м.* Вінт. *Вінт у сымыпряткі ні пыдцягыіць.* Хвёдараўка Краснап.

ВІНУВАЦІЦЬ, *дзеясл.* Вінаваціць. *Сам вінуватый, а другіх вінуваціць.* Горкі Краснап.

ВІНЧАЛЬНЫЙ, *прым.* Вянчальны. *Нада ж такому нішчасьцю быць — недзе свой вінчальны персьцінь пацірала.* Гусарка Клім.

ВІНЧАЦЦА, *дзеясл.* Вянчацца. *Яны вінчацца ні будуць, у сельсавеці тольні запішуцца.* Янаўка Мсцісл.

ВІНЧАЦЬ, *дзеясл.* Вянчаць. *Пятрусь хочыць пыбрацца з Ганныю, але ж яны блізкія крэўныя, поп вінчаць ня будзіць.* Асмолавічы Мсцісл.

ВІНЫВАЦІЦЬ, *дзеясл.* Вінаваціць. *Ён мяне віныраціць у кражы. Зачым віныраціць дырма чылавека, калі ён пра ета нічога ні знаіць.* Слаўнае Мсцісл.

ВІНЫГРАД, -у, *м.* Вінаград. *Прыехыў Міхась з Крыму, віныграду прівёз і мяне пычастуваў.* Цірэні Раснян.

ВІР, -а і -у, *м.* *Вір*, глыбокае месца ў рацэ, дзе вада завівае, круціць. *Ён купаўся, пыпаў у вір і заліўся; на другей дзень мёртвыга дысталі.* Арцёмаўка Міласл. *У нашай рэчцы ёсьць бальшыя віры.* Шчыпыў Раснян. *Ня лезь у вір, ато затопісься.* Расна.

ВІР, -а, *м.* Вірок, прылада для звівання нітак у клубок. *Вір нада другей зьдзелыць: етый ніткі ўжу ні дзержыць.* Горкі Краснап.

ВІРА, -ы, *ж.* Частаванне, якое наладжвае хлопец, што дайшоў [дасягнуў] сталага ўзросту, сваім старэйшым таварышам. *Бяз віры, брат, не абойдзешся: у хлопцы ня прымем.* Мікалаеўка Клім.

ВІРАБЕЙ, -б'я, *м.* Верабей. *Дзеўкі паселі ў рад, як віраб'і ны зыгародзьдзі.* Парадзіна Мсцісл. *Як унадзіліся віраб'і ў проса, хоць махылым мыхай.* Палуж Краснап. *Кошка пыймала вірыб'я.* Башары Раснян.

ВІРБАЛОЗ, -у, *м. бат.* Вербалоз. *Паўз рэчкі расьцець вірбалоз.* Хвёдараўка Краснап.

ВІРЗІЯ, -яі, *ж.* 1. Чалавек, што гаворыць абы-што [і сама лухта]. *Ты сяньні, Іван, як вірзія вярзеш, што ў гылаву прыйдзець.* Канічы Касцюк. *Вірзія, вярзець, што пупала!* Хвёдараўка Краснап. 2. Вярзіла, вялікі чалавек. *Вырас вірзія, ды дурный, і калі ты ўжо розуму ныбярэсься?* Пірагова Мсцісл.

ВІРОК, вірка, *м.* Вірок. *Зыцягні нітку ў вірок, так руку ніткый парежыш.* Горкі Краснап.

ВІРОЎКА, -і, *ж.* Вяроўка. *Адматалысь віроўка, амаль кывярзень з нагі ні згубіўсь.* Ушакі Чэрык.

ВІРХАВОДКА, -і, *ж.* Верхаводка, неглыбокая грунтовая вада, што ўвесну ідзе па лёдзе. *У рацэ на лёдзе пыявілысь ужо вірхаводка, хутка лёд пойдзіць.* Хвёдараўка Краснап.

ВІРХАК, -а, *м.* Коннік. *Нейкія два вірхакі паехалі сягоньня цераз дзярэўню.* Пірагова Мсцісл. *Цілігараму вірхак прівез.* Горкі Краснап.

ВІРЦЯНО, -а, *н.* Верацяно. *Нымытала поўныя вірціно нітык. Іна на сыныпрадку прадзе, а ні на вірцяно.* Касцюшкавічы Крыч.

ВІРЫШЧАНЬНЯ, -я, *н.* Верашчанне. *Да чаго ўжо ета вірышчаньня ныдаела, пірістаньця вы, пырысяты!* Касцюшкавічы Крыч.

ВІРЫШЧАЦЬ, *дзеясл.* Верашчаць. *Вірышчыць, як парасё ў прасьлі.* Парадзіна Мсцісл.

ВІРЯБЕЙ, -б'я, *м.* Верабей. *Я злавіў сяньні віріб'я.* Лешчынка Мсцісл. *Вірябей зьвіў гнязло пад стрехый.* Касцюшкавічы Крыч.

ВІРЯБІНА, -ы, *ж.* Верабіна [рабіна]. *У лесі вірябіна ўжу пасьпела.* Высокі Бор Краснап.

ВІРЯЦЕНЦА, -а, *н.* Вераценца. *Слаўныя віряценца Іван вытачыў.* Большая Багацькаўка Мсцісл.

ВІСАЖЫР, вісажор, -а, *м.* Сузор'е. *Скора будзець дзень: вісажыр ужо высока.* Дубеец Касцюк.

ВІСАЧЭЗНЫЙ, *прым.* Павеліч. ад вісокій. *У бровыры вісачэзны комін.* Слаўнае Мсцісл.

ВІСЕЦЬ, *дзеясл.* Вісець. *Задоўка вісіць у пуні на крюку.* Башары Раснян. *Кучомка вісіць ны сьцяне.* Крычаў. *У шахве вісела адзежа.* Іванаўка Хоцім.

ВІСІЛЬНІЦА, -ы, *ж.* Вісельня. *Вісільніца пы табе плачыць, варюга ты.* Хвёдараўка Краснап.

ВІСНА, -ы, *ж.* Вясна. *Вісна пачынаіцца ў марці месіцы; маріц — першы месіц вясны.* Арцёмаўка Міласл.

**ВІСО́К**, віска́, *м.* Скронь. *Ны віску, кыля валосься, рубец ацтаўсь.* Парадзіна Мсцісл.

**ВІСО́КА**, *прысл.* Высока. *Паліца дужа вісока, іна ня можыць зь яе гаршкоў дыстаць.* Арцёмаўка Міласл. *Кум, глядзі-ка, ірыплан ляціць, знаць, дужа вісока, што такей малінькій.* Бяседавічы Хоцім. *Ой, вісока сонца ўсходзіць, ‖ Нізінька заходзіць.* З нар. песні. Горкі Краснап.

**ВІСО́КІЙ**, *прым.* Высокі. *Ны гародзе вісокія жоўтыя сыланешнікі.* Парадзіна Мсцісл. *У нас укроп такей вісокій парос.* Арцёмаўка Міласл. *Сплю і віджу ўва сьне, нібыццым я лезу на вісокыю гару.* Пірагова Мсцісл. *Ого, брат, ікая вісокыя лясіна!* Слаўнае Мсцісл. *І вісокыя ж наша званьніца.* Ушакі Чэрык.

**ВІСЫЖА́Р**, -а, *м.* Сузор'е. *Устывай мылаціць, ужо скора дзень будзіць: вісыжар на небі сусім зайшоў.* Слаўнае Мсцісл.

**ВІСЯЛІ́ЦЦА**, *дзеясл.* Весяліцца. *Вісяліцца молыдзь. А чаму ім ні вісяліцца — мыладыя, здаровыя, і мы некалі вісяліліся.* Большая Багацькаўка Мсцісл.

**ВІСЯЛУ́ХА**, -і, *ж.* Вясёлая жанчына. *Во вісялуха, ніводный вічарінкі ні прапусьціць, во ўжу любіць вісяліцца.* Арцёмаўка Міласл. *Іна ў нас первыя вісялуха, сумываць ні дасьць.* Хвёдараўка Краснап.

**ВІТАДО́Л**, -а, *м.* *заал.* Птушка-перавозчык, балотная (крычыць «вітадол»). *Вітадол лётыя паўз рэчкі. Здаецца, ля берыга, сядзіць, а к яму ні падойдзеш.* Хвёдараўка Краснап.

**ВІТА́ЦЦА**, *дзеясл.* Вітацца, здароўкацца. *Увайшоў у хату і пычаў з усімі вітацца.* Башары Расням. *Чэріз двор жывём, мы й ні знаімся, ‖ Ні вітаімся.* З нар. песні, М. Г. 3.

**ВІТА́ЦЬ**, *дзеясл.* Вітаць. *Як прыехыла іна дамоў, дык ўсі вышлі вітаць яе.* Ушакі Чэрык. *Увідзіў дзеўку ны даліні, ‖ Узяў стаў, з кыня спаў, ‖ Стаў вітаць ды яе пытаць.* З нар. песні, М. Г. 97.

**ВІТАШО́К**, -шка, *м.* Веташок, апошняя квадра месяца. *Віташок ужо ззыйшоў.* Кокатава Мсцісл. *Бачыш, віташок, які на небі ўзышоў.* Навашоўкі Расням.

**ВІ́ТКА**, -і, *ж.* 1. Вітка, пярэвітка, лазіна або сырая галіна дзерава, якою прывязваецца паплёт, звязваюцца калы ў загародцы і г. д. *Гарадзіць нада, а вітык німа, прыдзецца дзень патраціць — схадзіць у лызьняк па віткі.* Дрыбін. 2. Вяха. *Яны нылумалі пруцьця і наторкылі віткі ад мяжы ды мяжы, штобы праехыць прямую быразну.* Арцёмаўка Міласл. *Вітка стаіць, значыць аборык запушчаны.* Краснаручча Расням.

**ВІТРА́К**, -а, *м.* Вятрак, ветраны млын. *Бацька паехыў на вітрак.* Ганнаўка Клім.

**ВІХА́**, -і, *ж.* *бат.* Вех атрутны. *Калі карова зьесьць вяхі, іна пухня, тады йдзець кроў, і можа здохнуць. Цьвіцець віха ні саўсім жоўтым цьветым.* Хвёдараўка Краснап.

**ВІХА́НЬНЯ**, -я, *н.* Віхлянне. *Ні люблю я твайго віханьня ат аднаго дзела к другому; за адно б ужо дзіржаўся.* Слаўнае Мсцісл.

**ВІХА́ЦЦА**, *дзеясл.* Віхляцца. *Дос тыбе віхацца, хадзі з намі.* Ушакі Чэрык.

**ВІХЛЯ́ЦЬ**, *дзеясл.* Віхляць. *Пріехыў к стайні — конікі ірзуць, ‖ Увайшоў у хартоўню — хорцікі віхляць.* З нар. песні, М. Г. 120.

**ВІХО́Р**, віхра, *м.* Віхор, шчэць у свінні на самым хрыбце. *Віхор у кыбына трасецца.* Хвёдараўка Краснап.

**ВІЦЬ**, *дзеясл.* Віць. *Набяром красычык і будзім вянкі віць.* Краснаручча Расням.

**ВІЦЯРО́К**, -рка, *м.* Памянш. ад вецер. *Віцярок пувівая, ды вугалёк раздумая.* Маластоўка Краснап.

**ВІЧАРІ́НА**, -ы, *ж.* Павеліч. ад вечар. *А хто ж там едзіць вічаріныю, ‖ Вічаріныю і з лучіныю?* З нар. песні, М. Г. 48.

**ВІЧАРІ́НКА**, -і, *ж.* Вечар з музыкаю і скокамі. *Бегла ны вічарінку, во ўжу думыла адгокыць там, аж на табе — ні скокуў, ні скымарохуў німа.* Арцёмаўка Міласл.

**ВІЧАРІ́ЦЦА**, *дзеясл.* Пазніцца. *Ні вічаріся ж ты ны дваре.* Большая Багацькаўка Мсцісл.

**ВІЧАРО́К**, -рка, *м.* Вечарок, памянш. ад вечар. *Ладны ўчора вічарок удаўсь.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

**ВІЧАРО́М**, *прысл.* Вечарам, увечары. *Сваты прыйшлі вічаром.* Палуж. Краснап.

**ВІЧЧЫНА́**, -ы, *ж.* Вяндліна. *Нарэж-ка ты там віччыны нам на поўдзень у поле.* Пірагова Мсцісл. *У кыпіраціві стала дужа плыхая віччына.* Канічы Касцюк.

**ВІЧЭ́РАЦЬ**, *дзеясл.* Вячэраць. *Трэба іці гукнуць Ганну, хай вічэраць ідзе.* Ушакі Чэрык.

**ВІ́ШНЯ**, -і, *ж.* *бат.* Вішня. *Дзеці ўсягды па'брываюць вішні, пакуль яны яшчэ зялёныя.* Пірагова Мсцісл.

**ВІ́ШЫНЬКА**, -і, *ж.* Памянш. ад вішня. *Вішынька на дрэві мытаіцца.* Маластоўка Краснап.

**ВІШЧА́ЦЬ**, *дзеясл.* Вішчаць. *Вішчыць, як парасё ў плоці. Сьвіньні вішчаць, есьці хочуць.* Іванаўка Хоцім.

**ВО**, *выкл.* Во, вось. *Во, кулдыкнуўся ён з воза!* Страмілава Мсцісл. *А быгдай бы цібе чэрці ўзялі — во, пірапужаў!* Ушакі Чэрык. *Во, выпужылась, што чуць ат серца атлігнула.* Парадзіна Мсцісл.

**ВО́БАД**, -а, *м.* Вобад. *Вобад у гэтым катку плахі.* Крычаў. *У етым катку ясяновы вобад.* Ташна Клім. *Вобад рассохся, і сьпіцы павыіхалі.* Бяседавічы Хоцім.

**ВО́БЖЫ**, -аў, *мн. л.* Аглоблі ў сасе. *Пулумаліся вобжы ў сахе.* Брылёўка Краснап. *Вобжы новыя ды сахі нада зьдзелыць.* Пухнава Расням.

**ВО́БЛІЎ**, -ву, *м.* Галалёдзіца. *Ны дваре воблій: хадзіць стала коўзка.* Гібалы Касцюк. *Сяньні воблій такей, што во толькі падмерзьніць, дык, ні пыдкуваўшы кыня, ні паедзіш.* Арцёмаўка Міласл. *Сеньні ны дваре такі воблій, што нельга ісьці па вуліцы, надта сьлізка і мокра.* Прусіна Клім.

**ВО́БЛЫК**, -а, *м.* Воблака, невялікая хмарка. *Воблыкі згушчаюцца ў хмару, дождж будзіць.* Хвёдараўка Краснап.

**ВО́БЛЫЧЧА**, -а, *н.* *зборн.* Аблокі. *Воблычча па небі нясецца.* Горкі Краснап.

**ВО́БМЫЦКЫМ**, *прысл.* Вобмацкам. *Упоцімках вобмыцкым знайшоў.* Палуж Краснап.

**ВО́БРАЦЕНЬ**, -тня, *м.* Памылка ў снаванні красён. *Пыклала сяньні адзін толькі вобрацень, як снывали кросны.* Хвёдараўка Краснап.

**ВО́БУЙ**, -і, -ві, *м. зборн.* Абутак. *Трэба дзецям новы вобуй купіць, ато зысталіся босыя.* Касцюковічы. *Падай з печы мой вобуй.* Крычаў. *Вобуй спрійляць нада — зіма ны парозі.* Хвёдараўка Краснап.

**ВО́БЧЫСТВА**, -а, *н.* Грамада. *Усім вобчыствым парышылі пуправіць дарогі і масты.* Сохана Мсцісл. *Што вобчыства скажыць, так і будзіць.* Высокі Бор Краснап.

**ВО́БЫД**, -а, *м.* Вобад. *У тваім, братка, катку дужа добры вобыд.* Бязводзічы Мсцісл.

**ВО́ГАЛАЎ**, -ва, *м.* Аброць, плеценая з канаплянага валакна [ці раменная], без повада. *Мікіта сьплёў новы вогалаў ны жаробку.* Бязводзічы Мсцісл.

**ВО́ГЕР**, -а, *м.* Жарабец. *Ні бачыў ты, Алесь, майго вогера?* Канава II Хоцім. *Бацька павёў кабылу да вогера.* Горлава Расням.

**ВО́ГНІВА**, -а, *н.* Крэсіва. *Дзед, каб зыкурíць, дыстаў з зыпазухі кісет с тыбакыю, скалку, губу і вогніва; губу пылажыў ны скалку, а вогнівым стаў высікаць агонь.* Слаўнае Мсцісл.

**ВО́ГНІК**, -а, *м.* Вогнік, гнойныя болькі на твары [на барадзе ў дзяцей]. *У дзяўчынкі вогнік на мордзі, нада вуглем абвесьць ды пышыптаць, як мяне вучыла бабчыха адна.* Арцёмаўка Міласл.

**ВО́ГНІШЧА**, -а, *н.* Вогнішча, агонь [касцёр], раскладзены на полі ці ў лесе. *Холыд быў, дык мы й рызлажылі вогнішча сірод лесу, а тут лясьнік прішоў ды накрычаў ны нас.* Ушакі Чэрык.

**ВО́ГЫЛАЎ**, *м.* Вогалаў, аброць без повада. *Атвяжы повыд і дай мне вогылаў.* Бяседавічы Хоцім. *Вогылаў раменны, а пывады пяньковыя.* Ташна Клім. *Ета ня цэлыя аброць, вогылыў, ды яго пывады нада зьдзелыць.* Хвёдараўка Краснап.

**ВО́ДАЛЬ**, *прысл.* Збоку, на невялікай адлегласці. *Ты ня стой водаль, а ідзі дыпамажы яму выехаць.* Касцюковічы. *Трошку водаль ат майго двара цячэ рэчка.* Кокатава Мсцісл.

**ВО́ДГУЛЬЛЯ**, -а, *н.* Водгулле, рэха. *Як крыкнуў, аж водгульля пы лясу пашло.* Арцёмаўка Міласл.

**ВО́ДЛУГ**, *прыназ.* Згодна з. *Так ізьдзелылі, водлуг таго, як ён кызаў.* Арцёмаўка Міласл.

**ВО́ЖЖЫ**, -аў, *мн. л.* Лейцы. *Вожжы выпалі ў каток.* Парадзіна Мсцісл.

**ВО́ЖКІ**, -каў, *мн. л.* Лейцы. *Нехта ўкраў мае вожкі, і нечым зываждзжыць кыня.* Лешчынка Мсцісл. *Ахрэм зьвіў новыя вожкі.* Бязводзічы Мсцісл. *Вяровачныя вожкі намыкаюць у дождж.* Пухнава Расням. *Бяры вожкі ў рукі і кіруй.* Хвёдараўка Краснап. *Дзяржы крепка вожкі, каб конь ні пабег з гары.* Слаўнае Мсцісл.

**ВО́ЖЫГ**, -а, *м.* Палка з апаленым канцом, жыган. *Хоць ты яго вожыгым пары.* Кокатава Мсцісл.

**ВОЗ**, -а, *м.* Воз. *Купіў воз дроў зы два рублі.* Мсціслаў. *Саломіныя падушка з возу спала.* Багацькаўка Мсцісл. *Конь упудзіўся і абярнуў воз.* Дубеец Касцюк. *Янка ны аборку ныкасіў воз сена.* Куляшоўка Клім.

**ВО́ЗДУХ**, -у, *м.* Паветра. *Пысьля дожджу воздух чыстый.* Сохана Мсцісл. *У іх у хаці затхлый воздух.* Кокатава Мсцісл.

**ВО́ЗІРА**, -а, *н.* Возера. *Наша возіра глубокыя.* Слаўнае Мсцісл. *Здалі ат хутыра возіра ёсьць.* Трубільня Краснап. *На возіры шмат дзікіх качак.* Ушакі Чэрык.

**ВО́ЗКА**, -і, *ж.* Возка. *Крывалы ўжываюцца для возкі бярвеньняў.* Горлава Расням.

**ВО́ЗКРІ**, -раў, *мн. л.* Соплі. *З носу возкрі цякуць, хуць ба выцер ты іх.* Горкі Краснап.

**ВО́ЗЬНІК**, -а, *м.* Вознік, рамізнік. *Мне пупаўся сёньні возьнік такі, што ледва прывез.* Пушкова Расням. *Возьнік, пыгыняй свайго гнедыга — хутчэй даедзім.* Ушакі Чэрык.

**ВОЙ**, *выкл.* Вой, ой. *Вой, парасінка капнула мне на лоб.* Ушакі Чэрык.

**ВОЙСТРАВУГО́ЛЬНЫЙ**, *прым.* Востракутны. *Дом на скосык вуліцы войстравугольный.* Краснаполле.

**ВО́ЙСТРЫЙ**, *прым.* Востры. *Войстры твой нож.* Іванаўка Хоцім. *Войстрыя сякера.* Большая Багацькаўка Мсцісл. *Твой кырындаш войстры?* Шарэйкі Касцюк. *Войстрыя ваша скобля.* Бялішчына Мсцісл.

**ВО́ЙСЬКА**, -а, *н.* Войска. *Войська цэлае ідзець.* Большая Багацькаўка Мсцісл. *Адзін сын у войську служыць, а другей недзе ў шахтых.* Пабкі Расням.

**ВО́КА**, -а, *н.* Вока. *Маленькі аськёпычык зылящеў мне ў вока.* Юшкі Мсцісл. *Іна ік гляніць, дык абізацілна што-нібудзь зьдзеіцца — ці вока ў яе такоя, ці хто яе ведыіць.* Арцёмаўка Міласл. *Ны дваре цемінь — хуць вока выкалі.* Гарбавічы Касцюк.

**ВО́КЫЛА**, *прысл.* Вакол, наўкола, каля. *Верціцца кыля ды вокыла, а самый сутнысьці ні кажыць.* Бяседавічы Хоцім.

**ВО́КЫРАК**, -рка, *м.* Кумпяк. *Інбар атамкнутый, і вокыркі ўсі пызыбраны.* Пірагова Мсцісл.

**ВОЛ**, -а, *м.* Вол. *Чый гэта вол чорный зыйшоў ды нас?* Большая Багацькаўка Мсцісл. *Ён прыцавіты, як той вол.* Немерка Расням.

**ВО́ЛАК**, -а, *м.* Рыбалоўная снасць, невад. *Мы лавілі рыбу волыкам.* Чыгрынаўка Расням. *Волак пырваўсь, і рыба ўся ўцікла.* Парадзіна Мсцісл.

**ВО́ЛАСЬЦЬ**, -і, *ж.* Воласць. *Міхалка паперку із воласьці дастаў.* Гібалы Касцюк.

**ВО́ЛЕ**, -я, *н.* Воле, валё. *Куры ячменім пынабівалі волі, ледзь ходзяць.* Сохана Мсцісл.

**ВО́ЛІК**, -а, *м.* Памянш. ад вол. *Прыдайбабка, воліка.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

**ВО́ЛКАСЬЦЬ**, -і, *ж.* Волгласць, вільготнасць. *Гэта сена нельга класьць у пуню, у ім яшчэ есьць волкасьць.* Крупныя Касцюк.

**ВО́ЛКЫВАТЫЙ**, *прым.* Вільготны. *Ета сена яшчэ волкывата, ніхай пыляжыць, нільзя яго такім гресьць.* Арцёмаўка Міласл.

**ВО́ЛЫК**, -ка, *м.* Волак, зімняя дарога ў лесе, па якой вывозяць волакам бярвенні

на рум. *Волык сёліта добры, бярвеньні толькі падчапляй.* Хвёдараўка Краснап.

ВО́ЛЬНА, *прысл.* Без прымусу. *Ніхто цібе ні цяніць, вольна пайшоў.* Горкі Краснап.

ВО́ЛЬНЫЙ, *прым.* Вольны. *Цяпер мы вольныя: куды хочам, туды ідзём.* Пірагова Мсцісл. *Падзёнік — вольный чылавек: дзень атработыў, а заўтрі можыць пріціць, можыць і ні пріціць.* Арцёмаўка Міласл.

ВО́ЛЯ, -і, *ж.* Воля, свабода. *Мы хочам волі, каб жыць нам вольна.* Васілеўка Хоцім. *Ён пыстыянна наро́біць шкоды, калі дасі волю.* Слаўнае Мсцісл.

ВО́ЛЯ, -я, *н.* Валё. *Воля пісклёнык набіў.* Палуж Краснап.

ВО́МЫРЫК, -а, *м.* Вобмарак, непрытомнасць. *Ён быў у вомырыку. З ім зрабіўся вомырык.* Хвёдараўка Краснап.

ВОН, *прысл.* Вон. *Пашоў вон з хаты, цюцька!* Баброва Раснян. *Дачушка татухну вон высылала: ‖ — Выйдзі, выйдзі, татухна, зы вароцейкі.* З нар. песні, М. Г. 12.

ВО́НАХ, -у, *м.* Пах. *Што ты вонаху нупусьціў?* Буглаеўкі Краснап.

ВО́НКАХ, *прысл.* На дварэ. *Скрыня стаіць вонках.* Белы Мох Мсцісл.

ВО́НКІ, *прысл.* Вонкі, па-за сценамі хаты, на двары. *Хлопчык із хаты пашоў во́нкі зімой і прастудзіўсь.* Краснаполле.

ВО́ПРАМЕЦЬ, *прысл.* Вопрамець, з усіх ног, хутка. *Як зыдалі яму, дык ён вопрамець ды хаты!* Старае Сяло Мсцісл.

ВО́ПРАТКА, -і, *ж.* Вопратка, адзенне. *Мая вопратка зусім знасілася.* Беразяк Краснап. *У кожныга чылавека свая вопрытка.* Затоны Раснян. *Ны сьцяне вісіць новыя вопратка.* Шумячы.

ВО́ПЫДЗЬ, -і, *ж.* Хвароба, падзеж. *Вопыдзь ны цябе выйдзі казіныя!* Хвёдараўка Краснап.

ВО́ПЫСЬЛЯ, *прысл.* После, пасля, другім разам. *Вопысьля прыдзеш ка мне.* Таркавічы Мсцісл.

ВОР, -а, *м.* 1. Злодзей. *У нашу клець ету ноч залез вор.* Канічы Касцюк. *Ат вора замком ні 'тбаронісься.* Пачаны Краснап. 2. Двор для скаціны. *У нас ны вору ету зіму стыяла пяць кароў і тры коні.* Канічы Касцюк. *Зыгані кароў на вор.* Шумячы.

ВО́РАПЕНЬ, -пня, *м.* Лежабок. *Ляжыць, як ворапень, ны пячы.* Бялішчына Мсцісл.

ВО́РВЫЛЬ, -я, *м.* Варволь, ворвань. *Сыпагі за лета ссохлісь, што нагі ні ўдзеніш: нада ворвылім змазыць.* Горкі Краснап.

ВО́РІЖА, *прысл.* Варожа. *Гыраська воріжа адносіцца ды нас.* Горкі Краснап.

ВО́РЧЫК, -а, *м.* Ворчык. *Во цьвердзь дык цьвердзь, што аж дубовы ворчык зламіўся.* Бязводзічы Мсцісл. *Янка, зрабі ў барану ворчык!* Зубоўка Раснян. *Ворчык прывязан к плугу крепка.* Роськаў Мсцісл.

ВО́РЫГ, -а, *м.* Вораг. *Ён мой ворыг зыклятый.* Пірагова Мсцісл.

ВО́РЫК, во́рка, *м.* Двор для скаціны ці хлеў. *Каровы ўсю ноч стыяць на ворку, ня хочуць іціць у пуню, там душна. Яно ўжу і на ворку дужа грязна, нада гной вывісьць, ці яшчэ саломы падыслаць.* Арцёмаўка Міласл. *Зыгані кароў на ворык і дай ім саломы.* Бяседавічы Хоцім.

ВО́РЫЙ, -а, *м.* Каўнер. *Зысьцягні ворыт, ато прастудзісься.* Гібалы Касцюк.

ВО́СВА, -ы, *ж.* Аса. *Восва ўкусіла зы палец.* Буда Краснап. *Восвы гняздо зьвілі пыд стряхой.* Карма-Пайкі Краснап.

ВО́СІМ, *ліч.* Восем. *У лантугу было восім коп яблык.* Тур'е Чэрык. *Наша хата ўдоўжкі дзесяць аршын, а ўшыркі — восім.* Слаўнае Мсцісл.

ВО́СІМКА, -і, *ж.* Васьмёрка, карта з васьмю вочкамі. *Дывай яму восімку чарвей, дык ён пацягне.* Касцюковічы.

ВО́СІНСКІЙ, *прым.* Асенні. *Пяюць восінскія песьні.* Трубільня Краснап.

ВО́СІНЬ, -і, *ж.* Восень. *Іногды бываюць і ў восінь цёплыя і вясёлыя дні.* Канічы Касцюк. *У восінь нудна шуміць ны балоці сыка.* Слаўнае Мсцісл. *Праходзіць восінь, ды зіма ўжу бліжыцца халодныя.* Ушакі Чэрык.

ВО́СІП, -а, *м.* Уласнае імя Язэп. *Восіп паехыў у горыд.* Пабкі Раснян.

ВО́СК, -у, *м.* Воск. *Зьбіраюцца ўсі дзеўкі, склыдаюцца, купіюць воску, тады ўвечары ету сьвячу ныскаюць.* Большая Багацькаўка Мсцісл. *Нада аддзяліць воск ад мёду.* Пабкі Раснян.

ВО́СПА, -ы, *ж.* Воспа. *Воспа ў сяле пыявілась. Нада дзецям прышчапляць воспу.* Пірагова Мсцісл.

ВОСЬ, -і, *ж.* Вось. *Зламалысь вось у маіх калёсых, ні знаю, як быць.* Бяседавічы Хоцім. *Новыя вось скрыпіць.* Іміркі Раснян. *Заднія вось крепкыя, а пярэднія зьезьдзілысь.* Бязводзічы Мсцісл. *Пярэднія вось скора зломіцца.* Ташна Клім.

ВО́СЬПІНА, -ы, *ж.* Воспа [асобная болька]. *Што ў цябе зы былячка на ліце, ці ня восьпіна ета?* Канічы Касцюк.

ВО́СЬЦІ, -ей, *мн. л.* Восці. *Гэтыга шчупыка я забіў васьцямі.* Вародзькава Крыч.

ВОТ, *часц.* Вот, вось. *Вот уплішчыўся ж неяк!* Мсціслаў. *Вот табе, татухна, нізкій паклон.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ВО́ТЛІГ, -і, -у, *ж.* Адліга. *Сяньня ны дварэ вотліг.* Кокатава Мсцісл. *Пысьля траскучыга марозу наступіла такая вотліг, што аж з крыш зыкапыла.* Сохана Мсцісл.

ВО́ТРУБ, -а, *м.* Хутар, засценак. *Пятро́к з братым пыдзялілісь: Сымон астаўсь у дзярэўні, а Пятрок на вотруб выйшаў.* Малюшын Краснап.

ВО́ТРЫНА, -ы, *ж.* Мякіна, палова. *Нада каровам прынясьці вотрыны.* Новыя Капачы Мсцісл.

ВО́ЎК, -а, *м. заал.* Воўк. *Воўк туляецца ат ахотнікыў пы лясу.* Сохана Мсцісл. *Сяньні Васіль Піліпаў забіў выўка ў лесе.* Шчулканы Раснян.

ВО́ЎНА, -ы, *ж.* Воўна. *Ріпіна пряла воўну.* Гарбавічы Касцюк. *Купіла воўны, цяперь нада зваліць валёнкі.* Слаўнае Мсцісл. *Многа ты воўны настрыгла?* Крычаў. *Матка паехала чысаць воўну.* Бель Мсцісл. *Сяньня мы навылачылі воўну.* Паходавічы Чэрык.

ВО́ЎЧЫЯ ВО́КА, *бат.* Воўчая ягада. *Ня еж ету ягыду, ета воўчыя вока.* Брылёўка Краснап.

**ВО́ЎЧЫЯ ЛЫ́КА**, *бат.* Кустарнік з атрутнымі ягадамі, воўчае лыка. *Ад ягыд воўчыга лыка памерці можна, яны атрутныя.* Высокі Бор Краснап.

**ВО́ЎЧЫЯ Я́ГЫДА**, *бат.* Воўчая ягада, крушына. *Воўчыя ягыды есь нільзя.* Хвёдараўка Краснап.

**ВО́ХКЫЦЬ**, *дзеясл.* Вохкаць, войкаць. *Дос табе вохкаць і стыгнаць, ці табе ўжу дужа так болна?* Арцёмаўка Міласл.

**ВО́ХНУЦЬ**, *дзеясл.* Вохнуць, войкнуць. *Ік скызаў я іму, дык ён аж вохнуў.* Васілеўка Хоцім.

**ВО́ЦЫНДА**, -ы, *ж.* Воцат. *Шчавіль сяньні, як воцында, дужа кіслы.* Хвёдараўка Краснап.

**ВО́ЦЫТ**, -у, *м.* Воцат. *Рызьліла воцыт.* Хвёдараўка Краснап.

**ВО́ЧКА**, -а, *н.* Памянш. ад вока. *Не бяры нажнічак, ато праб'еш вочка, і будзеш біндавокі.* Барысавічы Клім. *Ягору вочкі — ён ходзіць па ночкі.* Большая Багацькаўка Мсцісл.

**ВО́ЧЧАН**, -а, *м.* Пчаляр. *Ягор — воччан; у яго пчолы вядуцца, і мёд заўсёды ё.* Барысавічы Клім.

**ВО́ЧЧЫМ**, -а, *м.* Айчым. *У Грішкі бацькі нет: воччым у яго.* Маластоўка Краснап.

**ВО́ЧЫРІДЗЬ**, -і, *ж.* Чарга. *Цэлый дзень у вочырідзі прыстыяла.* Слаўнае Мсцісл.

**ВО́ЧЭП**, -а, *м.* Вочап. *Вочэп атырваўсь, і вады дыстаць нечым.* Хвёдараўка Краснап.

**ВОШ**, -ы, *ж.* Вош. *Зы дарогу ныбраўся вошы.* Хвёдараўка Краснап.

**ВО́ШЧУПКУ**, *прысл.* Вобмацкам. *Біз агня вошчупку чуць нышла сьпічкі.* Слаўнае Мсцісл.

**ВО́ШЧЫПКЫМ**, *прысл.* Вобмацкам. *Вошчыпкым падпоўз туды.* Брылёўка Краснап.

**ВО́ШЫЎКА**, -і, *ж.* Абшыўка рукава, манжэтка. *Мыя вошыўка атырвалысь.* Курасоўка Мсцісл. *Дужа прыгожыя вошыўка.* Хвёдараўка Краснап. *Рукавы абшыты вошыўкамі.* Ганнаўка Клім.

**ВРАГ**, -а, *м.* Вораг. *Ніхай ета станіцца з маімі врыгамі.* Слаўнае Мсцісл.

**ВУ́ГАЛ**, вугла́, *м.* Кут, вугол. *Кырваць стаіць у вугле.* Лядагошч Мсцісл. *У хаце згніў вугал.* Машавая Бялынкав. *Ну хоць бы ён за вугал зыхінуўсь, як бег шалёны сыбака — пасьцярожка ніколі ні шкодзіць.* Ушакі Чэрык.

**ВУ́ГАЛЬ**, вугля́, *м.* Вугаль. *Падай вугаль прыкурыць.* Касцюковічы. *Вазьмі жыган і выкаці мне вугаль з цяпла.* Гібалы Касцюк. *У Ганны бровы чорны, як вугаль.* Добрае Мсцісл.

**ВУГА́ЛЬЛЕ**, -я, *н. зборн.* Вуголле. *Аттушы вугальля для сымувара.* Касцюковічы. *З печы атсыпалі бальшый чугун гарачых вугальляў.* Сохана Мсцісл. *Я ў пячурку зыгрібла вугальля і засыпыла залою.* Арцёмаўка Міласл. *Ён сядзеў, як ны вугальлі.* Пірагова Мсцісл.

**ВУГО́Л**, вугла́, *м.* Вугол. *Вугол хаты стаіць прама.* Пухнава Раснян. *Дурны-дурны, а, нябось, аб вугол гылавою ня б'ецца.* Белы Мох Мсцісл.

**ВУ́ДА**, -ы, *ж.* Вуда, прылада лавіць рыбу. *Цэлы дзень ныд рякою з вудаю сідзіць, а пыймаець два кялбы.* Шарэйкі Касцюк. *Зыбраў вуду, чарвей і ўсякія прынады і пайшоў рыбу лавіць.* Парадзіна Мсцісл. *Дзе твыя вуда, пойдзем рыбу лавіць.* Касцюковічы.

**ВУ́ДАЛЬ**, -і, *ж.* Зух, зухаватасць. *Ну і вудаль хлопіц.* Машавая Касцюк.

**ВУ́ДЗІЛЬШЧЫК**, -а, *м.* Вудзільшчык, рыбак з вудай. *Вудзільшчыкыў болій, чым рібы, ў етый речкі, што йны тут наловюць, а сідзяць.* Горкі Краснап.

**ВУ́ДЗІЦЬ**, *дзеясл.* Вудзіць, лавіць рыбу вудаю. *Рыбалка вудзіць рыбу.* Гібалы Касцюк.

**ВУДО́ДКА**, -і, *ж.* Рыба маленькая, дробязь, аўдотка. *Вудодка ўсё роўна, як сом, толькі дужа маліңькыя, у маліңькіх рэчках паміж карчоў водзіцца.* Хвёдараўка Краснап.

**ВУ́ДЫЛЬ**, -і, *ж.* Зух, зухаватасць. *Зыдаўсь ты бацькывый вудылі. Вудыль у хлыпца ні бацькыўскыя.* Хвёдараўка Краснап.

**ВУ́ДЫЛЬНЫЙ**, *прым.* Зухаваты, вясёлы, цікавы. *Ты вудыльный чылавек, з табой ні засьнеш.* Хвёдараўка Краснап.

**ВУ́ДЫЛЬНЫСЬЦЬ**, -і, *ж.* Зухаватасць, адважнасць. *Лезіць пряма ў агонь — вудыльнысьць сваю пакызаць хочыць.* Б. Хутары Краснап.

**ВУЖА́КА**, -і, *ж. заал.* Вужака, гадзіна. *Карову ў лесі ўкусіла вужака, дык яна распухла і здохла.* Сохана Мсцісл. *Нашу быдлу ўкусіла вужака.* Пухнава Раснян. *На дарозе ліжала забітыя вужака.* Іміркі Раснян.

**ВУЖА́СНЫЙ**, *прым.* Страшны. *Такей ён вужасный пысьля тыфу — абголеный, худый!* Пірагова Мсцісл.

**ВУЖЛЯНО́К**, -нка, *м.* Пралаза, праныра, дасціпны чалавек. *Іт, вужлянок, нічога ад цябе ні схуваіш; ужу як схувала, і тут нашоў.* Бяседавічы Хоцім.

**ВУ́ЗА**, -ы, *ж.* Вашчына, соты. *Твой мёд нячысты, з вузый.* Касцюковічы. *Мёд ачысьціць ад вузы нада, іна ж дыражэй за мёд.* Слаўнае Мсцісл.

**ВУЗЁЛ**, вузла́, *м.* Вузел. *Зывяжы ны канцы вузёл.* Андраны Раснян. *Вяжы вузёл пісьцяком.* Хвёдараўка Краснап.

**ВУЗЕ́ЛЬЧЫК**, -а, *м.* 1. Памянш. ад вузёл. *Вузельчык зывізаўсь, і рызьвізаць ні магу.* Горкі Краснап. 2. Малы пакуначак у хусцінцы. *Дзядзька даў мне вузельчык, а я рызьвізала, і во што там было — канхветы.* Б. Хутары Краснап.

**ВУ́ЗКА**, *прысл.* Вузка. *Гета болыта дужа вузка.* Ташна Клім.

**ВУ́ЗКІ**, *прым.* Вузкі. *Прыгалык зусім вузкі.* Крычаў. *Ліштыўка ў кашулі дужа вузкыя.* Хвёдараўка Краснап. *Я люблю, каб спадніца зьверьху была вузкыя, а ўнізе шырокыя, ўсё роўна, як звон у цэрькві.* Слаўнае Мсцісл.

**ВУЗЛЫВА́ТЫЙ**, *прым.* Вузлаваты. *Вярёўка вузлыватыя, ёю ні зыцягніш воз.* Ушакі Чэрык.

ВУЗНА́ЦЬ, *дзеясл.* Пазнаць. *Якей ты стаў, пряма ня вузнаць!* Канічы Касцюк.

ВУЗРО́СЛЫ, *прым.* Дарослы. *У майго суседа маліц ужо вузрослы.* Канічы Касцюк.

ВУЗЬДЗЕ́ЧКА, -і, *ж.* Аброць [звычайна з цуглямі, раменная]. *Твыя ж вузьдзечка ўжо пырвалыся.* Бязводзічы Мсцісл.

ВУ́ЗЬЛЯК, -а, *м.* Памянш. ад вузёл. *Зывяжы вузьляк.* Васілеўка Хоцім.

ВУКРО́П, -у, *м.* Кіпень, вар. *Вынь з печы вукроп ды вылі ў цэбыр.* Канахоўка Клім.

ВУЛДЫ́РЬ, -я, *м.* [Гуз, гузак, пухір]. *Я ўдаріла аб прітылку лоб, ну такій ускочыў вулдырь, што вока ні відаць.* Слаўнае Мсцісл.

ВУ́ЛЕЙ, вулья́, *м.* Вуллё. *Пчолы нынасілі повін вулей мёду.* Сохана Мсцісл. *Зычыні доўж у вульлі.* Цівецкая Краснап. *Пчолы дружна гудзяць кыла вульля.* Сохана Мсцісл.

ВУ́ЛІЦА, -ы, *ж.* Вуліца. *У нашый дзярэўні вуліца шырокыя.* Андраны Расня́н. *Навучыце босьць бугыя, тады ня пройдзеш за ім па вуліцы.* Добрае Мсцісл. *Пайдзём на тэй бок вуліцы, ато тут ня пройдзеш.* Касцюковічы. *Абстраміла я яе на ўсю вуліцу, болей ня пойдзіць красьць.* Пірагова Мсцісл.

ВУ́ЛКА, -і, *ж.* Вулка, невялікая вуліца [завулак]. *Падвода праехыла ўсю вуліцу і зывярнула на вулку.* Маластоўка Краснап.

ВУЛО́ХВЫЦЦА, *дзеясл.* Гардзіцца, выстаўляць сябе, узносіцца. *Нечыга там вулохвыцца, не вялікі пан.* Хвёдараўка Краснап.

ВУ́ЛЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад вуліца. *Вулычка дужа цесныя: дзьве падводы ні разьмінуцца.* Маластоўка Краснап. *Кыля Івана тыкая вулычка, што з калёсымі і разьмінуцца нельга.* Царковішча Клім.

ВУЛЬЛЯ́К, -а, *м.* Вуллё. *Ясёп зьдзелыў новый вульляк.* Касцюковічы. *Кыля вульляка літаюць пчолы.* Іванаўка Хоцім.

ВУМ, -а, *м.* Розум. *К чаму ён зрабіў ета, дзе яго вум быў?* Добрае Мсцісл. *Узыйшла мне на вум думка.* Слаўнае Мсцісл.

ВУ́МЯ, -я, *н.* Вымя. *Цялёнка яшчэ слабыга туўкалі к вумю маткі, штоб ён мог ссаць.* Арцёмаўка Міласл. *Вумя ў каровы ўспухла.* Андраны Расня́н.

ВУ́МНЫЙ, *прым.* [Разумны]. *Іт, якей ты вумны!* Валымар Расня́н. *Ганна — вумныя дзеўка.* Бель Мсцісл.

ВУН, *часц.* Вунь, там. *Вун далёка цяпелца гарыць.* Палуж Краснап. *Сядзьця, дзеткі, вун там на кушэткі.* Куркаўшчына Мсцісл. *А вун і мыя хата.* Валымар Расня́н.

ВУ́НА, *часц.* Вунь. *Вуна йдзе Сёмка!* Палуж Краснап. *Вуна мой абіднік, ворыг мой лютый пашоў!* Пірагова Мсцісл.

ВУНІ́ЯТ, -а, *м.* Абманнік, дрэнны чалавек. *Біряжысь етыга вуніята, яшчэ цябе пыдвядзець.* Маластоўка Краснап.

ВУ́НЫЦЬКА, *часц.* Вун. *Вуныцька ён айдзе ўжо апынуўся.* Кокатава Мсцісл.

ВУНЬ, *часц.* Вунь. *Вунь тэй самы чылавек зноў панёс пырасё.* Мсцісл. *Вытры вунь тым рушніком.* Кокатава Мсцісл.

ВУПЛУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Выплываць. *Як даў нырца, глядзім, аж ён ужо на другім канцы вуплуваіць!* Пірагова Мсцісл.

ВУ́ПРІЖ, -ы, *ж.* Вупраж. *Кыня купіў, цяперь нада справіць вупріж і калёсы, ато так ні фасон езьдзіць без усяго.* Слаўнае Мсцісл.

ВУРА́ДНІК, -а, *м.*Ураднік. *Пычаў вураднік дашуківіцца.* Парадзіна Мсцісл.

ВУ́РЗНУЦЦА, *дзеясл.* Выцяцца, рэзнуцца. *Як вурзнуўся аб камінь, дык чуць устаў.* Кокатава Мсцісл.

ВУРО́ДЗІНА, -ы, *ж.* Уродзіна, ненармальны, з фізічнымі недахопамі чалавек. *Вуродзіну ету ніхто і ўзамуж ні возьміць.* Высокі Бор Краснап.

ВУРЧЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Бурчаць. *Кот сядзіць ды вурчыць сабе.* Палуж Краснап. *А ты, коня, ня вурчы, || А ты, дзетка, сьпі, маўчы.* З песні-калыханкі. Мсціслаў.

ВУС, -а, *м.* Вус. *Распусьціў ячмень вусы.* Валымар Расня́н. *Зыйшла за сцэну, а там усі ныкрышыныя, з вусамі, падзелылі сабе борыды.* Пірагова Мсцісл.

ВУ́СЬЦЕНЬ, -я, *м.* Вусце. *Кылі ў речку ўпыдае другая речка ці ручайка, дык ета месца называюць вусьцень.* Касцюковічы.

ВУСЬЦІ́НЬНЯ, -і, *ж.* Уласнае імя Усціння, Юста. *Пёкла з Вусьціньняй пашлі лён брацЬ на сцелішча.* Восаў Краснап.

ВУ́ТКА, -і, *ж.* Качка. *Ахвотнік ужо зь яго — што слонка, што вутка — ні адрозьніць.* Парадзіна Мсцісл. *Ён ідзець, дык быццам вутка плывець.* Галоўчыцы Клім. *Рызьвялі стольки птаства розныга: і куры, і гусі, і вуткі, і індыкі.* Ушакі Чэрык.

ВУ́ТРІНЯ, -і, *ж.* Ранняя служба ў царкве. *Пірястоіла вутріню, а на 'бедні ні была.* Палуж Краснап.

ВУТРЫЧКО́М, *прысл.* Раніцою. *Я ж ба вутрычком зайшоў.* Хоцімск.

ВУ́ТЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад вутка. *Ета вутычка нешта меньшы ўсіх вутык, а плавыіць як шыбка!* Арцёмаўка Міласл.

ВУУНЯ́НКА, -і, *ж. бат.* Грыб, ваўнянка. *Вуўнянкі — грыбы рызыватыга цьвету, ня дужа смачныя.* Пірагова Мсцісл.

ВУЎРШНІ́К, -а, *м.* Ручнік. *Вун вісіць вуўршнік, вазьмі ды ўтріся.* Іванаўка Хоцім.

ВУЎРШНІЧО́К, -чка, *м.* Памянш. ад вуўршнік. *Пыдай-ка вуўршнічок.* Хвёдараўка Краснап.

ВУ́ХА, -а, *н.* Вуха. *У Янкі баліць вуха.* Чыгрынаўка Расня́н. *Ён агрэў так здорава яго па вуху, што аж мне болесна стала.* Добрае Мсцісл.

ВУХАРЭ́Ц, -рца, *м.* Зух. *Ён добры вухарэц.* Хвёдараўка Краснап.

ВУХНАЛЁК, -ліка, *м.* Вухналік, цвічок для падковы. *Прынясі сюды мылаток і абцугі вухналёк з капыта вынуць.* Куркаўшчына Мсцісл.

ВУХНА́ЛЬ, -я, *м.* Вухналь, цвік прыбіваць падкову. *Вухналь адзін выпаў, і падкова ляпыіць, нада весьць к кывалю.* Зубоўка Расня́н.

ВУ́ХНЫЛЬ, -я, *м.* Вухналь. *Куваль зыгнаў вухныль у жывоя, і конь ны нагу ступіць ня можыць.* Восаў Краснап.

ВУЦІНЫЙ, *прым.* Качыны. *Пастушкі ныпалі на вуціныя гняздо.* Палуж Краснап. *Вуціныя яйца большы за курыныя.* Зубоўка Раснян.

ВУЦІНЯ́ТКА, -а, *н.* Качанятка. *Вутка з вуціняткымі пашла ны ряку, адно вуцінятка зысталося.* Шарэйкі Касцюк.

ВУЦЮГ, -а, *м.* Прас. *Рыспалі вуцюг, мне нада гладзіць плацьця. Павыдумлялі цяпер нейкыя гладжыньня вуцюгамі, раней — пыкычаў у кычалкі і ныдзівай так.* Слаўнае Мсцісл.

ВУЧАНІ́К, -а, *м.* Вучань. *Вучанік прішоў із школы.* Лешчынка Мсцісл.

ВУ́ЧАНЬ, ву́чня, *м.* Вучань. *Вучань павесіў кайстру ны сьцяне.* Ганнаўка Клім. *Былазе, што прышоў ныстаўнік, ато вучні б не займалісь.* Юшкавічы Раснян.

ВУЧО́НЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Асвета. *Чылавеку з вучонысьцю ўсюды дарога.* Палуж Краснап.

ВУЧЫ́ЛІШЧА, -а, *н.* Школа. *Наша вучылішча харошыя, відзіш, і падмурык з кірпічу складзін, а печкі ў сярёдкі дык кахыльныя.* Арцёмаўка Міласл. *Ты пойдзеш у вучылішча ці не?* Канічы Касцюк.

ВУЧЫНІ́К, -а, *м.* Вучань. *Спычатку ён быў вучынікам у століра, а цяпер так наўчыўсь, што зрабійся яго пыдмайсцеркым.* Сохана Мсцісл. *Вучынікі ўжу с школы ны абед пабеглі.* Хвёдараўка Краснап.

ВУЧЫ́ЦІЛЬ, -я, *м.* Настаўнік. *Вучыціль пыказывай нам конпыс.* Шарэйкі Касцюк. *У нашым вучылішчу харошый вучыціль.* Арцёмаўка Міласл.

ВУЧЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Вучыцца. *Ён вучыцца ны казённый кошт.* Арцёмаўка Міласл. *Ні нада табе вучыцца.* Хоцімск.

ВУЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Вучыць. *Нашто цябе вучыць, ты й так вучоны.* Ушакі Чэрык.

ВУ́ШКІ МЯДЗЬВЕ́ЖЫЯ, *бат.* Мядзвежыя вушы, дзіванна вялікая. *Ат парэзык трэба браць мядзьвежыя вушкі — жоўтый цьвяток ны ялывіных.* Хвёдараўка Краснап.

ВУЮ́Н, -а, *м.* Уюн. *Вуюноў цэльныя вядро нылавіў.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ, *займ.* Вы. *Станьця вы, дзядзічкі, ўсі ў ряд, ‖ Пойдзіць Мыланка бацькі йскаць.* З нар. песні, М. Г. 17. *Кыла вас яма глыбокыя, чаму вы яе не засыпіце, ато праехаць нільзя.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́БАЙ, -я, *м.* Выбоіна, выбітая калёсамі глыбокая каляіна. *Кыткамі глубокія выбаі пынадзелылі.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ́БАР, -у, *м.* Выбар. *Глядзі не абмахнісь у выбары.* Кокатава Мсцісл.

ВЫ́БАРАК, -рка, *ж.* Тое, што застаецца пасля адбору, астатак. *Пызыгрыбастылі сабе лепшыя кускі, а нам цяпер зысталіся адны выбаркі.* Пірагова Мсцісл.

ВЫ́БАЧЫЦЬ, *дзеясл.* Выбачыць. *Выбачце мне, дзядзечка, болей ня буду.* Зубоўка Раснян.

ВЫБАЧЭ́НЬНЯ, -я, *н.* Выбачэнне. *Прашу выбачэньня за мае ранейшыя к вам адносіны.* Канічы Касцюк.

ВЫ́БЕГАЦЦА, *дзеясл.* Выбегацца, набегацца. *Хлопчык выбігыўсь, цяпер сы смакым есьць.* Палуж Краснап.

ВЫ́БЕЛЕНЫЙ, *прым.* Выбелены, пабелены. *Ета пылатно луччы выбелена і шырі за тоя.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́БЕЛІЦЬ, *дзеясл.* Выбеліць, зрабіць белым. *За лета нада пылатно выбеліць.* Зубоўка Раснян.

ВЫБІРАЦЬ, *дзеясл.* Выбіраць. *Не, кылі ўжо выбіраць, дык дзеільных, каб тоўк быў.* Парадзіна Мсцісл. *Выбірай касу, якую хочыш, нáлюба.* Маластоўка Краснап. *Ніхай сыма выбіраіць, пы крайній меры, ня будзіць жалкуваца.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́БІТЫЙ, *прым.* 1. Выбіты. *У вакне выбіта шыба.* Бель Мсцісл. 2. Абклееныя, абабіты. *Каморка выбіта шпалерамі.* Людагошч Мсцісл.

ВЫ́БІЦЬ, *дзеясл.* Выбіць. *Ганна выбіла ў вакне кватэрку.* Гібалы Касцюк. *Выбій дзьверы з пітніка.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ́БЛІСНУЦЬ, *дзеясл.* Вызірнуць, выглянуць з-за хмар. *Було хмарна, а цяпер сонца выблíснула.* Палуж Краснап.

ВЫ́БРАЦЦА, *дзеясл.* 1. Выбрацца, вылезці з чаго-небудзь. *Ішоў уночы, як ускачыў у нейкыю каўдобіну — чуць выбраўся.* Пірагова Мсцісл. 2. Выехаць (з кватэры, напрыклад), пераехаць. *Ён тут жыў, але выбраўся недзе ў горыд ці што.* Вародзькава Крыч. 3. Сабрацца. *Толькі выбраўся ў горад ехаць, а тут — дождж.* Горлава Раснян.

ВЫ́БРАЦЬ, *дзеясл.* Выбраць. *Трэба выбраць тоўстыя бірвяно на луткі.* Тур'е Чэрык.

ВЫ́БРЫЦЦА, *дзеясл.* Выбрацца, вылезці з чаго-небудзь. *Нізнама, як выбраца з етыга лесу.* Палуж Краснап. *Каб ні натуга кыня, дык ба нам і ня выбрыцца з балота.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́БРЫЦЬ, *дзеясл.* Выбраць. *Дрэнныя месца пыд ціпляніішча выбрылі.* Бародзіч Краснап. *Я выбрыў сабе зорічку — ‖ Хуць іна малінька — ясьнінька, ‖ Між усіх зорічак знашнінька.* З нар. песні. Большая Багацькаўка Мсцісл.

ВЫ́БЫР, -у і -а, *м.* Выбар. *Глядзі ж ні абмахніся ў выбыры.* Кокатава Мсцісл. *Зь етых тывваріў выбыр ні вялік.* Маластоўка Краснап.

ВЫ́БЫРКІ, -рак, *мн. л.* Выбаркі, перабранае. *Лепшыя яблыкі прыдаў — адны выбыркі зысталісь.* Слаўнае Мсцісл. *Нашто мне даеш выбыркі, іх ніхто ні бярэць, выбырык і мне ні нада.* Маластоўка Краснап.

ВЫВАДЗІЦЦА, *дзеясл.* Выводзіцца, пераводзіцца. *З етый тырбаношкі ніколі капейка ні вывадзілысь.* Бяседавічы Хоцім.

ВЫВАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Выводзіць. *Дзядзька пышоў кыня вывадзіць.* Горлава Раснян.

ВЫВАЗІЦЬ, *дзеясл.* Вывозіць. *Нада з пуні вывазіць гной.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́ВАЛІЦЬ, *дзеясл.* Вываліць, выкінуць. *Нада сена вываліць у пуню ды пы снапы ехыць, ато ўночы, бадай, дождж будзіць.* Заходы Раснян.

ВЫ́ВАРАТ, -а, *м.* Выварат. *У лесе ляжыць вялікі выварат, сысна.* Канічы Касцюк.

ВЫ́ВАРАЦЬ, -і, *м.* Выварат. *Гэста астатнія бура нырабіла шмат выварацей.* Пухнава Раснян.

ВЫ́ВАРЫЦЬ, *дзеясл.* Выварыць. *Нада плацьця добра выварыць у чугуне, а тады мыць.* Заходы Раснян.

ВЫ́ВЕЗЬЦЬ, *дзеясл.* Вывезці. *Із сьвінарніка вывезьлі навоз ны гарод.* Малюшын Краснап. *Заўтра апошні тэрмін на вываз дроў, нада хуць з лесу вывезьці, ато прыпадуць* Горлава Раснян.

ВЫ́ВЕРНУЦЦА, *дзеясл.* Вывернуцца, вываліцца з воза. *Сані рыскаціліс на зывароці і вывернулісь.* Старае Сяло Мсцісл.

ВЫ́ВЕСЬЦЬ, вы́весці, *дзеясл.* 1. Вывесці. *Нада вывесьць кыня ны пашу, ніхай ні стаіць у стайні.* Арцёмаўка Міласл. 2. Выседзець. *Квактуха вывела дзевятнатцыць пісклят.* Пірагова Мсцісл.

ВЫ́ВІЗЬЦЬ, вы́візьці, *дзеясл.* Вывезці. *Мы ўзяліся вывізьці сямуху дроў.* Хвёдараўка Краснап. *Ылажый воз, што ледзь із лесу вывіз.* Пухнава Раснян.

ВЫ́ВІРНУЦЬ, *дзеясл.* Вывернуць. *Ні зівай так, ато санкі набок вывірніш.* Парадзіна Мсцісл. *Нада каровым даць пыасобна есьць, ато яны паб'юцца і вывірнуць мякіну.* Арцёмаўка Міласл. *Нагу ш чашычкі вывірнуў.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ́ВІСІЦЬ, *дзеясл.* Вывесіць. *У волысьці аб'яўку вывісілі.* Дзіснакіта Мсцісл. *Красныя хлагі кыла хат вывісілі.* Арцёмаўка Міласл. *Аб'яўку ікуюсь вывісілі, нада пыглядзець.* Палуж Краснап.

ВЫ́ВІСКА, -і, *ж.* Шыльда. *А ныд лаўкыю вывіска: «Зялезныя таргоўля».* Парадзіна Мсцісл.

ВЫ́ВІСЬЦІСЬ, вы́вісца, вы́вісьціся, *дзеясл.* Вывесціся. *Ах, якія харошыя піскляночкі вывіліся ў нашый ластывычкі пад акном.* Ушакі Чэрык.

ВЫ́ВІСЬЦЬ, *дзеясл.* 1. Вывесці. *Наша квакуха вывіла з пітнацыці яец дзьвінаццыць піскленкуў, а 'стальныя трі былі буўтуны.* Арцёмаўка Міласл. *Квакуха вывіла двынаццыць пісклят.* Хвёдараўка Краснап. 2. Знішчыць, вывесці. *Ні знаю, як ета знішчыць чарвей з капусты; нада іх чым-нібудзь вывісьць.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́ВІТРІЦЦА, *дзеясл.* Праветрыцца. *Во ныкурылі! Адчыні дзьверы, хай хата вывітріцца.* Парадзіна Мсцісл.

ВЫ́ВІХНУЦЬ, *дзеясл.* Вывіхнуць, звіхнуць. *Во зяўнуў, аж чуць санкі ня вывіхнуў.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́ВУХРЫЦЬ, *дзеясл.* Вывучыць, вымуштраваць. *Бацька добра вывухрій сына пыхаць.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́ВУЧЫЦЬ, *дзеясл.* Вывучыць. *Адурэньне, колькі ён даў нам вывучыць! Мы ж не справімся.* Пірагова Мсцісл.

ВЫ́ВЫЛІЦЦА, *дзеясл.* Вываліцца, выпасці. *Вывылілісь днішча ў бочцы.* Хвёдараўка Краснап. *Надзелый-ка ў быраны кляцоў, ато некылькі вывылілыся, дык дренна скырадзіць.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́ВЫЛЬІКЧЫ, вы́вылыч, *дзеясл.* Вывалачы, выцягнуць. *Сьціпана вывылыклі з хаты.* Палуж Краснап.

ВЫ́ВЫРЫТ, -а, *м.* Выварат [і спод]. *Ой, колькі вывырытый пынадзелыла бура.* Хвёдараўка Краснап. *Бальшэй вывырыт ляжыць у лясу; нада його парезыць ны бярьвеньні і вывезьць.* Высокі Бор Краснап.

ВЫ́ВЫРІЦІНЬ, -тня, *м.* Пярэваранець, ваўкалак [і выварат]. *Аксен Гнатый — вывырыцінь: ночцу ён воўкым бегыць.* Высокі Бор Краснап.

ВЫ́ВЫРЫЦЬ, -і, *ж.* Выварат. *Попірэк дарогі ліжала вялікыя вывырыць дубу, ічырашнія буря вывірнула.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫГА́, -і, *ж.* Вага, журавель каля калодзежа. *Сёньні ваду цігаць нечым: звалілыся выга.* Прусіна Касцюк. *Нільзя цяпер дыстаць біз вярёўкі вады з калодзіся, там выга пылумалысь, адна сыха толькі і стаіць, як сьвечка.* Арцёмаўка Міласл. *Пылумалыся наша выга, нечым будзіць цігаць ваду.* Новыя Капачы Мсцісл.

ВЫГАВО́РКА, -і, *ж.* Вымаўленне. *Ён хуць і пы нашыму гаворыць, але выгаворка ў яго інакшыя, биваіць, што трудна слова пызнаць.* Ушакі Чэрык.

ВЫ́ГАДА, -ы, *ж.* Выгада, карысць. *Ёсьць выгада трымаць пародзістую скаціну.* Лешчынка Мсцісл.

ВЫГАДО́УВЫЦЬ, *дзеясл.* Гадаваць, выхоўваць. *Дыглідалі, выгадоўвылі, а йна памёрла.* Высокі Бор Краснап.

ВЫ́ГАЛІЦЬ, *дзеясл.* Выгаліць, пагаліць. *Добра ты яму выгаліў быраду.* Студзянец Касцюк.

ВЫ́ГАНКІ, -нак, *мн. л.* Выперадкі. *Ён гнаўся на выганкі.* Шарэйкі Касцюк.

ВЫ́ГАР, -а і -у, *м.* Выгар, месца, дзе выгараў торф. *У выгары шмат курап.* Лютня Краснап.

ВЫ́ГАРНУЦЬ, *дзеясл.* Выгарнуць. *Выгарні з печы попел, ато поўныя печка.* Старае Сяло Мсцісл. *Ідзі выгарні вугальле з печы.* Касцюковічы.

ВЫ́ГАРЭЦЬ, *дзеясл.* Выгараць, зліняць ад сонца. *Сьвітка выгарыла ад сонца.* Старае Сяло Мсцісл.

ВЫ́ГЛІД, -а і -у, *м.* Выгляд. *На выглід іна дуже красівыя дзеўка.* Слаўнае Мсцісл. *Піліп хуць і балеў, але нічога мае выглід.* Добрае Мсцісл.

ВЫГЛІДА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Выглядаць, мець выгляд. *Як ты сёньні прыгожа выглідаіш!* Ушакі Чэрык. *Спадніца выглідае на мне цікава.* Заполле Крыч. 2. Глядзець, чакаючы каго. *Каго гэта ты, Мар'я, выглідаіш?* Шыркі Раснян.

ВЫ́ГЛІДНЫЙ, *прым.* Відны, які мае добры выгляд. *А ён маіць выглідный від, выглідный чылавек.* Высокі Бор Краснап.

ВЫ́ГЛІНЦЫВАНЫЙ, *прым.* Выглянцаваны. *Сыпагі выглінцывыныі, хуць глядзісь у іх.* Маластоўка Краснап.

ВЫ́ГЛЫДЖЫНЫЙ, *прым.* Выгладжаны, выпрасаваны. *Іна надзела толькі што выглыджыную кохтычку.* Арцёмаўка Міласл.

*Вырятнік ні дужа выглыджыный.* Высокі Бор Краснап.

ВЫ́ГЛЯД, -а, *м.* Выгляд. *Нейкій у ле асобны выгляд сяньня, ні так, як усягды.* Пірагова Мсцісл.

ВЫ́ГНЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Выгнаць. *Дзітвыра ета, як сыбярецца к нам, дык ат крі́ку іх ды піску дзеціа некуды; а з хаты выгныць тожа ня хочыцца, халодна ны дваре — прастудзюцца.* Арцёмаўка Міласл. *Я выгныла з капусты трусіка, думыла, што ета зайчык.* Гібалы Касцюк. 2. Вялікім вырасці, выцягнуцца. *Буракі йшчэ малыя, а выгнула іх бацьвіньня.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫГО́Н, -а, *м.* Выган. *Выпусьці каровы на выгон, ніхай ходзяць, чым мелі ў ворку стыяць.* Хоцімск.

ВЫГРО́ЗА, -ы, *ж.* Староннасць, прадузятасць. *Гыварый ён пры яе біз усякай выгрозы: ні ганій і ні хваліў.* Ушакі Чэрык.

ВЫ́ГРЫЦЦА, *дзеясл.* Выграцца, абагрэцца. *Дзед выгрыўсь на сонцы.* Палуж Краснап.

ВЫ́ГУКІВЫЦЬ, *дзеясл.* Выгукваць, выклікаць. *Калі мяне выгуківылі, я й ні пачуў.* Горна Краснап.

ВЫГЫВА́РІВЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Выгаворваць, вымаўляць, рабіць замову. *Мой дзед умеіць выгыварівыць ад зьмяі.* Пірагова Мсцісл. 2. Рабіць вымову за кепскія ўчынкі. *Ён стаў мяне выгыварівыць зы лганьнё.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́ГЫВЫРЫЦЬ, *дзеясл.* Загаварыць, замовіць. *Етую хваробу треба выгывырыць.* Нова-Ельня Краснап.

ВЫ́ГЫ́ДА, -ы, *ж.* Выгада, карысць. *Длі сваёй выгыды ён ета ўсё дзелыіць.* Слаўнае Мсцісл. *Купі етыга кыня, будзеш мець выгыду.* Мсціслаў.

ВЫ́ГЫДНА, *прысл.* Выгадна, карысна. *Выгыдна луччы пыдыждаць пакуль пройдзіць туча, каб ні аблій дождж.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́ГЫДЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Выгадавацца, вырасці. *От, выгыдывыўсь неяк ны бяду.* Заполле Раснян.

ВЫ́ГЫДЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Выгадаваць, вырасціць. *Нада выгыдывыць садок, ніхай унукым будзіць.* Слаўнае Мсцісл. *Дзіцёнка выгыдывыць, пакуль ён станіць чылавекым, дык многа нада здароўя пылажыць.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́ГЫЛІЦЬ, *дзеясл.* Выгаліць. *Пыглядзі-ка ты, як яму выгылілі быраду — ны пяць гадоў пумыладзеў.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́ГЫЛЫДЫЦЦА, *дзеясл.* Выгаладацца, добра захацець есці. *Як выгылыдыісься, дык усяго зьясі.* Палуж Краснап.

ВЫГЫЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Выгольваць. *Етый пылікмахір дужа пыгана выгыляіць; брітвы ў яго тупыя ці што?* Краснаполле.

ВЫ́ГЫН, -а, *м.* Выган. *Агынь, гусі, гынь на выгын!* Шумячы. *Хуць бы ты правёў куды кыня етыга, ато выпусьціць на выгын, і сохніць ён тут целый дзень.* Бяседавічы Хоцім.

ВЫ́ГЫНІЦ, -нца, *м.* Выгнаннік. *Выгыніц зьвярнуўсь.* Краснаполле.

ВЫ́ГЫНКІ, -нак, *мн. л.* Выперадкі. *Дывай паедзім на выгынкі — хто каго піраганя.* Шарэйкі Касцюк.

ВЫГЫНЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Выганяць. *Нада выгыняць ужо скот у поля.* Слаўнае Мсцісл. *Пыра выгыняць скаціну ны пашу.* Горкі Краснап.

ВЫ́ГЫР, -а, *м.* 1. Балоцісты лужок сярод поля. *Конь пасецца на выгыры.* Маластоўка Краснап. *Ны нашым выгырі ўсягды стаіць выда, а таму і трыва там ладныя родзіць.* Слаўнае Мсцісл. 2. Месца ў балоце, дзе выгарэў торф. *Летысь тут гарэў торф, а січас выгыр выды повін, ік сажылка ўсё роўна.* Палуж Краснап.

ВЫДА́, -ы, *ж.* Вада. *Пысьля дажджу выда ў ряке пыднілась і кыламутныя стала.* Мсціслаў. *Выда ў калодзіжы тхліць.* Пабкі Раснян.

ВЫДАЗЬБЕ́Г, -у, *м.* Капеж. *Стаў пыд самый выдазьбег, і ўсяго нымачыла.* Парадзіна Мсцісл.

ВЫДАСПУ́СК, -а, *м.* Вадасцёк. *З бузгоріка выдаспуск пісок наносіць.* Горкі Краснап.

ВЫДАСТРУ́Й, -я, *м.* Фантан. *Выда з бочкі выдаструім бьець.* Горкі Краснап.

ВЫДАСЬЦЁК, -а, *м.* Вадасцёк. *Пыстаў бочку пад выдасьцёк, ніхай вады ныбяжыць.* Высокі Бор Краснап.

ВЫДАЦЕ́ЧА, -ы, *ж.* Вадацеча. *У дождж тут самыя выдацеча — выда з усюдых сьцікаіцца.* Маластоўка Краснап.

ВЫ́ДЗЕЛКА, -і, *ж.* Выраб. *Нада 'ддаць кожу ад нашыга быка ў кажэўню на выдзелку.* Пірагова Мсцісл.

ВЫДЗЕ́ЛЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Рабіць, выконваць якую-небудзь работу. *Бяры пешню ды выдзелывый шпар.* Цівецкая Краснап.

ВЫ́ДЗІЛІЦЬ, *дзеясл.* Выдзеліць. *Калі ён ні сыгласіцца выдзіліць мне часьць, дык я ў суд пыдам.* Арцёмаўка Міласл. *Нада і яму часьць выдзіліць.* Мышні Раснян.

ВЫДЗЯ́НКА, -і, *ж.* Пасудзіна для трымання запасу вады. *Лі ваду ў выдзянку!* Прусіна Касцюк. *Нынасі вады цэлую выдзянку.* Белы Камень Бялынкав.

ВЫ́ДМУЦЦА, *дзеясл.* Выспацца. *Ці выдмуўся ты? А нё ж, чуць ні цэльныя суткі спаў.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ́ДРАЦЬ, *дзеясл.* Падраць, адарваць. *Бег, шургануўсь аб дзерыва плячом — рукаў выдрый.* Парадзіна Мсцісл.

ВЫ́ДУРЫЦЬ, *дзеясл.* Выдурыць. *Выдурый у мяне грошы.* Палуж Краснап.

ВЫДЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Выдаваць. *Аўчыньнік усягды, як прінімаіць аўчыны, дык даець бірку, а тады па етый бірці і гатовыя аўчыны выдаець.* Бяседавічы Хоцім. *А плакыла дзеўка сільнінька, || Што ні татухна выдаець.* З нар. песні, М. Г. 54.

ВЫ́ДЫЎБАЦЬ, *дзеясл.* Выдаўбаць. *Дзед выдыўбаў карыта сеч сьвіньням траву.* Слаўнае Мсцісл. *Нада выдыўбаць дзірку, ды нечым.* Высокі Бор Краснап.

ВЫ́ДЫЦЬ, *дзеясл.* Выдаць. *Ён сябе ніколі ні выдысьць.* Мышні Раснян. *Нада выдыць старшыю, а пысьля етую.* Прусіна Касцюк.

ВЫ́ЕСЬЦЬ, *дзеясл.* Выесці, з'есці. *Коні*

*выелі вялікыю мясьціну травы.* Гарбавічы Касцюк. *Цэльныю міску варіва выеў.* Бяседавічы Хоцім.

ВЫ́ЕХАЦЬ, *дзеясл.* Выехаць. *Ён выехаў ранінька з двыра.* Хоцімск.

ВЫ́ЖАН, -а, *м.* Выжатае месца на ніве. *Хто-та ны нашый пыласе зрабіў выжан жыта.* Касцюковічы.

ВЫ́ЖБАРЫЦЦА, *дзеясл.* Выпарыцца, добра папарыцца ў лазні. *Ну й выжбарыўся я сёньні ў лазьні.* Касцюковічы.

ВЫЖДЖА́ЦЦА, *дзеясл.* Важдацца. *Дос табе выжджацца с сыбакым! Зь етым выжджаецца цэльный дзень.* Палуж Краснап.

ВЫЖЫМА́ЙЛА, -а, *м.* Скнара. *Хвёдыр такей ужу выжымайла.* Высокі Бор Краснап.

ВЫЖЫМА́ЛЬШЧЫК, -а, *м.* Уціскальнік. *Ні хадзі да етыга выжымальшчыка: ён сь цябе ўдвая зьдзярець.* Горкі Краснап.

ВЫЖЫМА́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Выкідваць штукі, рабіць выбрыкі. *Ні выжымайся ты, бачылі ўжо твае штукі.* Хвёдараўка Краснап. 2. Натужвацца. *Як устаніш зранку, нымалоціська, а тады пыбягіш яшчэ сотні дзьве жыта нажнеш — во йдзе прыходзіцца выжымацца на ўсю сілу!* Пірагова Мсцісл.

ВЫЖЫМА́ЦЬ, *дзеясл.* Выжымаць, сыскваць. *Нада выжымаць грошы з быгацеіў, ато нешта забылі пры даўгі.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Выжыць, застацца жывым. *Яго ны кірмашы за нешта так зьбілі, што пяць тыдняў ліжаў, думылі памрэць, аж не — выжыў-т'кі.* Чыгрынаўка Расьнян.

ВЫЗАВЫ́, *прым.* Вазавы, прыналежны да воза. *Вожкі ні выдзіржаць — парвуцца, ды й вызывая вярёўка тожа дрень — кароткыя.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫЗВАЛЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Вызваленне. *Чыкаў вызваленьня, ды ні дычыкаўся — памёр у вастрозі.* Парадзіна Мсцісл.

ВЫ́ЗВАЛІЦЬ, *дзеясл.* Вызваліць. *Гета будзіць мой атдарунык за тое, што ты мяне з бяды вызваліў.* Пірагова Мсцісл. *Вызвальця з бяды, пазычця грошы!* Парадзіна Мсцісл.

ВЫЗДРАУЛЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Выздараўленне. *Надзеі на выздраўленьня німа, ўсі ўжо срэдзьства паспробывыны.* Каробчына Мсцісл.

ВЫ́ЗДЫРІВЕЦЬ, *дзеясл.* Выздаравець, ачуняць. *Дохтыр даў кругленькія галычкі, глытаў — выздыравеў.* Старае Сяло Мсцісл. *Ён стаў пупрыўляцца і скора ўжо саўсім выздырівіець.* Бяседавічы Хоцім.

ВЫ́ЗНАЦЬ, *дзеясл.* Даведацца аб чымнебудзь, выкрыць сакрэт. *І як ён вызнаў ета ўсё?* Гарадзецкая Краснап.

ВЫЗНЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Даведвацца, выкрываць сакрэт. *Як табе ні сорымна вызнываць, што яны гаворяць.* Касцюковічы.

ВЫЗЯРЫ́НА, -ы, *ж.* Невялікае возера. *Іна ў вызярыні ўтанула.* Бардзіч Краснап.

ВЫЙ, -я, *м.* Енк, крык [выццё]. *Баба пыдніла вый на ўсю вуліцу.* Брылёўка Краснап. *Як пыднялі бабы вый, проста хуць вушы зытыкай.* Палуж Краснап.

ВЫІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Ваяваць. *Мабыць, ізноў будуць выівяць, што ўсіх коні піряпісывыюць.* Белы Мох Мсцісл.

ВЫІГРЫВЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Іграць, мастацкі выконваць ігру на скрыпцы, балалайцы ці іншым інструменце. *Добрыя ў яго былыбайка, а як ён на ёй выігрываіць добра.* Добрае Мсцісл. 2. Браць верх у гульні. *Гулялі мы двое проці дваіх у карты, і ўвесь час мы ўдваіх выігрывалі.* Сохана Мсцісл.

ВЫ́ЙГРЫЦЬ, *дзеясл.* Выйграць. *Дзесіць шупікыў выйгрыў.* Хвёдараўка Краснап. *Сяньні яму як шчасьціць у карты гуляць — ужо кыля пяцёркі выйграў.* Добрае Мсцісл.

ВЫІДЗЬ, -і, *ж.* Пражора. *Нашы сьвіньні — ныстыяшчыя выідзь, ні справісься траву рваць, усё паелі й галодныя.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫЙМА́ЦЬ, *дзеясл.* Вымаць. *Трэба хлеб з печы выймаць.* Пушкова Касцюк.

ВЫЙНА́, -ы, *ж.* Вайна. *Людзі дзейкаюць, што скора будзіць выйна.* Дубеец Касцюк. *Я чуў, што хутка будзе выйна.* Хоцімск. *Яго сын прыйшоў з вайны.* Мышні Расьнян.

ВЫ́ЙРВАЦЬ, *дзеясл.* Вырваць. *На што ты выйрваў мой палік?* Хвёдараўка Краснап. *Кутнік хверчыл выйрваў.* Хівецкая Краснап.

ВЫЙСКО́ВЫЙ, *прым.* Вайсковы. *К Ягору сяньня нейкі выйсковый прыехыў.* Добрае Мсцісл.

ВЫІХАЦЬ, *дзеясл.* Выехаць. *Ні знаю, ці пасьпеюць яны хуць сяньні справіцца, штоп ураньні выіхаць.* Арцёмаўка Міласл. *Яны ўжу саўсім атсюль выіхалі і ўсё хызяйства ды каліва зыбралі.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́ЙЦІ, *дзеясл.* 1. Выйсці. *Надвор'е стала, як багна, нельга выйці нікуды.* Добрае Мсцісл. *Выйдзі, выйдзі, татухна, зы вароцейкі, || Паслухый, татухна, у чыстыя поля.* З нар. песні. Зарэчча Мсцісл. 2. Атрымацца. *Тупяшка зь цябе выйдзя.* Хвёдараўка Краснап. *Узіла шкуцік паркылю, можа хуста й выйдзя.* Мядвёдаўка Краснап. *Нічога зь етыга ня выйдзіць.* Ушакі Чэрык.

ВЫ́ЙЦІЦЬ, *дзеясл.* Выйсці. *Ны дваре мяцеліца сумёты ныміла, нільзя с хаты выйціць.* Дубеец Касцюк.

ВЫІСЬНЯ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Выясняцца, рабіцца ясным. *Там унь выісьняіцца, мабыць, дошч і пірістаніць.* Арцёмаўка Міласл. 2. Выяўляецца. *Выісьняіцца, што нібы-та Кузьма пыдпаліў Рыгорыва гумно.* Канічы Касцюк.

ВЫІУЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Выяўляцца. *Што ён ня дзелыіць — у яго нейкыя няцьвёрдысьць выіўляецца.* Пірагова Мсцісл.

ВЫК, -а, *м. бат.* Віка. *Я пасеяў вык с аўсом. Сёліта вык добры ўрадзіў, і скасіць пытрапілі ў добрыю пагоду.* Гарадок Расьнян.

ВЫ́КАРАНІЦЬ, *дзеясл.* Вырваць з коранем. знішчыць. *Гэту хваробу трэба выкараніць.* Касцюковічы.

ВЫ́КАТ, -у і -а, *м.* Выраз у адзенні, прарэз. *Выкат у сарочцы вялікі.* Крычаў.

ВЫ́КАЦІЦЬ, *дзеясл.* Выкаціць. *Выкаці мне пырачом бульбінку з цяпла.* Гібалы

Касцюк. *Выкаць з печы жарыну.* Паходавічы Чэрык.

ВЫКІДВЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Выкідваць. *Ня выкідвый ты гнілыя курдопы — сьвіньні зьядуць.* Арцёмаўка Міласл. 2. Выкідваць штукі, рабіць смешныя ўчынкі. *Што ты зыкабункі выкідвыіш, кажы прама.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ́КІДЫ, -аў, *мн. л.* Выбрыкі. *Эйт, шэльма, ікея выкіды вытвуряіць!* Б. Хутары Краснап.

ВЫ́КІНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Выкінуць. *Нада етый квасоль пылузгаць і выкінуць лузгу.* Арцёмаўка Міласл. *Выкінь абзольля.* Іванаўка Хоцім. 2. Зрабіць што-небудзь смешнае, нечаканае. *Ну і крэндзядзюліну выкінуў.* Маластоўка Краснап.

ВЫ́КІПЕЦЬ, *дзеясл.* Выкіпець, выпарыцца пры кіпенні. *Крупеня дужа густа, знаць, выкіпіла дужа ці круп многа ўсыпылі.* Арцёмаўка Міласл. *Капуста сусім выкіпіла ў печы, дылівай, ды ішчэ нада затоўч яе.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́КЛІПАЦЬ, *дзеясл.* Выклепаць, накляпаць. *Я сяньня добра выкліпаў касу.* Новае Сяло Мсцісл.

ВЫ́КЛЬІДКА, -і, *ж.* Выкладка, укладка. *Выклыдка дроў кепскыя.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ́КРАСАЦЬ, *дзеясл.* Выкрасаць, высечы агню крэсівам. *Дай мне сваё красёлка — агню выкрасаць.* Ушакі Чэрык.

ВЫ́КРУЦІЦЦА, *дзеясл.* Выкруціцца, выйсці з цяжкага становішча. *Абдуўся я нашчэнт з гэтым дыгаворам, ня ведыю, як і выкруціцца.* Пірагова Мсцісл.

ВЫ́КРУЦІЦЬ, *дзеясл.* Выкруціць, выжаць ваду скручваннем. *Выкруці добра плацьця, скарей высыхніць.* Б. Хутары Краснап.

ВЫКРУ́ЧВАЦЦА, *дзеясл.* Выкручвацца, выходзіць з цяжкага становішча. *Аблапошылі яны мяне, вось цяпер і выкручвайся.* Пірагова Мсцісл.

ВЫКРУ́ЧЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Выкручваць, выжымаць ваду. *Нада выкручывыць крепка плацьця, ато яно ня скора высыхніць.* Слаўнае Мсцісл. *Бяльлё пумачыў дождж, трэба зноў выкручывыць.* Палуж Краснап.

ВЫ́КРЫІЦЬ, *дзеясл.* Выкраіць. *Кравец выкрыій жупан, сыбраў усі акрайкі і даў мальцу гуляць.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́КРЫЦЬ, *дзеясл.* Выявіць. *Правільный падлік налогу паможыць нам выкрыць усі памылкі.* Юшкі Мсцісл.

ВЫКУНЁК, -нька, *м.* Памянш. ад вокунь. *Сяньні я выкунька пыймаў на вуду.* Шыркі Расням. *Учора мне і выкунёк адзін пупаўсь.* Каробчына Мсцісл.

ВЫ́КУП, -у, *м.* Выкуп, плата за закладзеную рэч. *Выкуп, выруч мяне, татычка, з няволі! ‖ — А й ці многа, дачушычка, выкупу? ‖ — А сто рублёў, мой татухна, дый болі!* З нар. песні. Зарэчча Мсцісл.

ВЫ́КУПІЦЬ, *дзеясл.* Выкупіць. *Грошы ні капейкі німа, навіт не зы шта выкупіць і пыйка с кыпіраціву.* Мсціслаў.

ВЫ́КЫЛЫЦЬ, *дзеясл.* Выкалаць. *Нідаўна адзін хлопчык ны саломіну выкылыў сабе вока.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́КЫНАНЫЙ, *прым.* Выкананы. *Етыя пыдатковыя лісты ўжо выкынаны.* Канічы Касцюк.

ВЫКЫНА́ЎЧЫЙ, *прым.* Выканаўчы. *Наш раёнавы выкынаўчы камітэт правільна вядзе бідняцкыю лінію.* Канічы Касцюк.

ВЫКЫНА́ЦЬ, *дзеясл.* Выконваць. *Кожын павінін выкынаць сваі абывязкі.* Канічы Касцюк.

ВЫ́КЫНЧЫЦЬ, *дзеясл.* Выкачаць, выгладзіць. *Жонка сарочку лоска выкынчыла.* Палуж Краснап.

ВЫ́КЫПЫЦЬ, *дзеясл.* Выкапаць. *Калодзісь дужа далёка, нада выкыпаць свой.* Арцёмаўка Міласл. *Вазьмі новэй зілізьняк ды выкыпый яму.* Парадзіна Мсцісл. *Ужо двынацццыць аршын углыбкі выкыпылі калодзісь, а вады ўсё німа.* Добрае Мсцісл.

ВЫ́КЫРХНУЦЬ, *дзеясл.* Выхаркнуць. *Такей кашыль душыць, а выкырхнуць ніяк ні магу.* Гарадок Расням.

ВЫ́КЫРХІНЬ, -і, *ж.* Харкавінне. *Куды ты кінуў выкырхынь?* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ́КЫРЧЫЦЬ, *дзеясл.* Высахнуць, як корч, выпетраць [і выкарчаваць]. *Мазкі твае выкырчылі.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ́КЫТЫЦЬ, *дзеясл.* Выкатаць, высасаць. *Зьмія ўкусіла, трэба кроў выкытыць.* Лютня Краснап.

ВЫ́КЫЦІЦЬ, *дзеясл.* Выкаціць. *Выкыцім дубовую бочку.* Большая Багацькаўка Мсцісл.

ВЫЛАВО́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Валаводзіць, гаварыць не проста, а з падходам, зацягваць справу. *Брось ты ўжо вылаводзіць, ато мне ныдаела слухаць.* Кручкоўка Касцюк. *Што ён вылаводзіць многа.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫЛАВУ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Валаводзіць. *Ён мяне толькі вылавудзя.* Горкі Краснап.

ВЫЛА́ЗІЦЬ, *дзеясл.* Вылазіць. *Трэба, хлопцы, з рэчкі вылазіць.* Касцюковічы. *Макыйку зьдзелый і вылазь з рэчкі.* Хвёдараўка Краснап. *Чырвяк з зямлі вылазіць.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫЛА́МЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Выхіляцца, крыўляцца. *Дзівак чылавек, етык выламывыцца.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫЛАСЕ́НЬ, -сьня, *м.* Валасень, глыбокі нарыў. *Твой вылисень ужо і мне ныдаеў, ідзі ты к доктыру, хай ён табе яго разрэжа і выцесьніць.* Касцюковічы. *Як быў у мяне выласень на руцэ, во наікыталыся я.* Пірагова Мсцісл.

ВЫЛАСІ́НА, -ы, *ж.* Валасіна, асобны волас. *Ны плячы ў цябе выласіна пычапілыся — дзеўкі плачуць, мабыць, пы табе.* Пячонкі Расням.

ВЫЛАСІ́НКА, -і, *ж.* Памянш. ад выласіна. *У цябе ў ныздрю нейкыя выласінка пыпала, выні яе!* Пірагова Мсцісл.

ВЫЛАСЫ́, -оў, *мн. л.* Валасы. *Як учапіўсь ён у выласы, дык цэлую горстку вырваў.* Ушакі Чэрык. *Дзяўчына купіла ў выласы ўплёт.* Слаўнае Мсцісл. *Выласы скруціла ў куксу.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫЛАСЬНІ́К, -а, *м. бат.* Тысячаліс-

нік. *Ат вылысьня луччэй усяго пысыбляя выласьнік, што расьцець пы ялывіным.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫЛЫСЬНЯ́, -і, *ж.* Валасень. *Выласьня ны пальцы села, ды й балючыя ж, на яе агонь!* Арцёмаўка Міласл.

ВЫЛАЦУ́ГА, -і, *ж.* Валацуга. *Ідзі ад мяне, вылацуга!* Вародзькава Крыч. *Адстань ты ад мяне, вылацуга!* Паходавічы Чэрык. *Ну й вылацуга ты, хаця б ты што-небудзь рабіў.* Касцюковічы.

ВЫЛАЧО́БА, -ы, *ж.* Бадзянне. *Дос табе вылачыцца, нада ўжу й месца сібе знайсьці: вылачоба да дыбра ні дывядзець.* Палуж Краснап.

ВЫЛАЧО́БНІК, -а, *м.* Валачобнік. *У нас ужо зараз вылачобнікі ны вялікдзень не сьпяваюць.* Касцюковічы.

ВЫЛАЧЫ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Валачыцца, цягацца. *Кінь ты вылачыцца па сьвету, пыра ўжо і ўдому пабыць.* Васілёўка Хоцім. 2. Заляцацца. *Хлопіц вылачыўсь за дзеўкый, а тады ўзяў ды спакінуў.* Палуж Краснап.

ВЫЛАЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Баранаваць пасля сяўбы. *Я буду сеіць, а ты зыпрігай борыны і ўсьлед за мною будзіш вылачыць.* Бяседавічы Хоцім. *Едзь вылачыць, я засеіў там.* Крычаў. 2. Цягаць. *Адбяры ты ў яе дзіцёнка, дос ёй вылачыць яго, як пупала.* Лешчынка Мсцісл. *Каб цябе сыбакі вылачылі!* (лаянка). Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ВЫ́ЛЕЦЕЦЬ, *дзеясл.* Вылецець. *Пчолы вылецелі з караніка.* Роськаў Клім.

ВЫЛІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Выліваць. *Ні вылівай пазылкі пыд парогым, ато будуць тухнець.* Куркаўшчына Мсцісл. *Ня вылівай чай з імбрычка, я буду піць.* Шэпілава Жлоб.

ВЫ́ЛІВЫК, -ўка, *м.* Вылівак. *Нейкае ліха сталыся с курыцый — выліўкі нясець.* Брылёўка Краснап.

ВЫ́ЛІЗЬЦЬ, *дзеясл.* Вылезці. *Пыспасібкывый ды з-за стыла выліз.* Парадзіна Мсцісл. *У лясу нада хадзіць завідна, ато як зыбярэсься ў німярэчча, што ня вылізіш.* Слаўнае Мсцісл. *Вылізла гужошніца.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫЛІТА́ЦЬ, *дзеясл.* Вылятаць. *Ластыўка-кысата рана вылітала.* Большая Багацькаўка Мсцісл.

ВЫ́ЛІЦІЦЬ, *дзеясл.* Вылецець. *Птушанок выліціў з гнізда.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ́ЛІЦЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Пераліцаваць. *Выліцывый паліто, і глядзі, ік новыя стала.* Б. Хутары Краснап.

ВЫ́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Выліць. *Выліць яму вядро вады ны гылаву, дык ачухыцца.* Старае Сяло Мсцісл.

ВЫ́ЛІЧКА, -і, *ж.* Вылічка, адлічка. *Грошы зы работу далі, ды бальшую вылічку зьдзелылі.* Слаўнае Мсцісл. *Вылічка з палучкі дужа вялікыя.* Палуж Краснап.

ВЫ́ЛІЧЫНЫЙ, *прым.* Вылічаны, утрыманы з зарплаты. *Усё ўжу вылічыныя, німа чаго болій вылічаць.* Б. Хутары Краснап.

ВЫ́ЛІЧЫЦЬ, *дзеясл.* Вылечыць, зрабіць здаровым. *Ён мяне думыў вылічыць усякімі зыгаворымі, а я, брат, ні ў якую клятбу ня верю.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́ЛІЧЫЦЬ, *дзеясл.* Вылічыць, утрымаць з сумы. *Ні пасьпеў вылічыць у етым месіцы, вылічу другім разым.* Б. Хутары Краснап.

ВЫЛІЧЭ́НЬНЯ, -я, *н.* Вылічэнне. *Для вылічэньня пыдаткаў треба добра ведаць умовы гыспыдаркі.* Каничы Касцюк.

ВЫЛУЗА́ЦЦА, *дзеясл.* Вылупляцца з яйца. *Вот піскле, ні пасьпеў з яйца вылузацца, а ўжо зы работу бярэцца.* Ушакі Чэрык.

ВЫ́ЛУПІЦЬ, *дзеясл.* Вылупіць, вытрашчыць (вочы). *Чаго ты так сваё більмакі вылупіў, думыіш баюся?* Слаўнае Мсцісл.

ВЫЛЫМЫЦЬ, *дзеясл.* Выламаць, зламаць. *Вылымай сабе арехывый кіёчык аппірацца.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫЛЫЦЬНЯ́, -і, *ж.* Капа сена. *Вылыцьня сена на лузе зыстылася — ні пасьпеў зыбраць.* Іванаўка Хоцім.

ВЫ́ЛЯЦЕЦЬ, *дзеясл.* Вылецець. *Адчыні лёткі, няхай выляцяць пчолы пасьля зімы.* Крычаў.

ВЫЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Валяцца. *Пад ныгамі выляецца кусок вярёўкі.* Лешчынка Мсцісл.

ВЫ́ЛЯЧЫЦЬ, *дзеясл.* Вылечыць. *Бырані божа рожу удражніць — ні вылячыць.* Парадзіна Мсцісл.

ВЫЛЯЧЭ́НЬНЯ, -я, *н.* Вылячэнне, вылечванне. *Пысьля вылячэньня ён добра выглядзіць.* Касцюковічы.

ВЫ́МАНТЫЧЫЦЬ, *дзеясл.* Вымантачыць, выпрасіць. *Вымантычыў грошы ў мяне дый прапіў.* Горкі Краснап. *Ткі вымантычыў кніжку.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫМА́ТВАЦЬ, *дзеясл.* Выматваць, выцягваць. *Што ты ныеш, проста душу выматваеш сваім плачам.* Пірагова Мсцісл.

ВЫМА́ЦЬ, *дзеясл.* Вымаць. *Вымай з стала лыжкі ды накрывай стол.* Глупікі Крыч.

ВЫ́МЕРЦЬ, *дзеясл.* Вымерці, перамерці. *Усё кодла іх вымерла.* Гібалы Касцюк.

ВЫ́МІСЬЦЬ, *дзеясл.* Вымесці. *Выміці патруху з сяніцы.* Глупікі Крыч.

ВЫ́МУДРЫ, -ыў, *мн. л.* Мудрагельствы. *На вымудры пусьціўсь.* Б. Хутары Краснап.

ВЫМУДРЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Мудраваць, вырабляць розныя штукі, мудрагеліць. *Яны скачуць ды кырагоды водзюць: возьмуцца ўкруг за рукі і пашлі пець ды вымудряць.* Арцёмаўка Мілясл.

ВЫ́МУХРЫЦЬ, *дзеясл.* Вымуштраваць, навучыць. *Добра вымухрылі хлопца.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ́МУШТРЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Вымуштраваць. *Нада мыладога кыня добра вымуштрывыць, каб умеў ціха схадзіць з гары.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫМЫГА́ЙЛА, -а, *м.* Вымагальнік. *Біс паўлітра і ні йдзі ды яго — ні дасьць спраўкі, вымагайла етый.* Б. Хутары Краснап.

ВЫМЫГАЦЬ, *дзеясл.* Вымагаць. *Лясного аб'езчыка судзілі за тоя, што ён вымыгаў узяткі за лес.* Сохана Мсцісл.

ВЫМЫЛАЧЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Вымалочваць. *Ня вымылачывыюць добра, зярнэ ў саломі ны палавіну зыстаецца.* Пячонкі Раснян.

ВЫ́МЫНДЗЫРЫЦЬ, *дзеясл.* Выпрасіць. *Во скупая — чуць-чуць вымындзырыла паўрубля зы работу.* Куркаўшчына Мсцісл.

ВЫМЫЎЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Замаўляць, лячыць замоваю. *Нада вымыўляць урокі.* Галынец Краснап.

ВЫ́МЫЦЬ, *дзеясл.* Вымыць. *Добря вымый подал.* Хвёдараўка Краснап. *Мяса нада чыста вымыць, і тады ўжо можна пріпрыўляць гаршкі.* Бяседавічы Хоцім. *Прыбрала хату, павесіла чыстыя фіранкі, мост вымыла.* Пірагова Мсцісл.

ВЫМЫШЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Вымошчваць, масціць, насцілаць памост. *Сёліта вуліцу вымысьцілі, дык ляпей стала.* Касцюковічы.

ВЫ́МЯ, -я, *н.* Вымя. *У нашай каровы нешта пачынае вымя брусьнець.* Касцюковічы.

ВЫ́НАСІЦЬ, *дзеясл.* Вынасіць, аднасіць. *Мой сыян яшчэ пейна вынасіць дзьзе зімы.* Белы Камень Бялынкав.

ВЫ́НЕСЬЦЬ, *дзеясл.* Вынесці. *Нада вынесьць попіл ны грады.* Новыя Капачы Мсцісл. *Зыпарыла ў шайцы мякіны і вынесла сьвіньням.* Сапрынавічы Мсцісл.

ВЫНІМА́ЦЬ, *дзеясл.* Вымаць. *Ні вынімай хлеб з печы, ніхай пысядзіць яшчэ, ато будзіць цісьцяный.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́НІСЬЦЬ, *дзеясл.* Вынесці. *Цэбар з мякіный вынісла і пыставіла карові.* Лешчынка Мсцісл. *Вынісі дзежку ў чулан.* Арцёмаўка Міласл. *Плойма ўсе гутаркі вынісла.* Мядвёдаўка Краснап.

ВЫ́НІТЫЙ, *прым.* Вынуты. *Топліный лой, нідаўна вынітый з печы, стыяў ны вакне.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́НІЦЬ, *дзеясл.* Вынуць. *Выніла с сундука хвальбоніцу.* Арцёмаўка Міласл. *Выні с копкі анучы.* Пячонкі Раснян. *Вынь паронкі і патаўчы.* Тур'е Чэрык.

ВЫНУЖДА́ЦЬ, *дзеясл.* Прымушаць. *Я ні хочу цябе вынуждаць, каб ты сказаў мне, айдзе быў — ты сам скажы.* Лешчынка Мсцісл.

ВЫ́НУЦЬ, *дзеясл.* Вынуць. *Мылако ў печкі ўжу стапілысь, яго пыра вынуць, ато будзіць дужа красна.* Арцёмаўка Міласл. *Ай, выньця вы з меху, ‖ А надзелыйця сьмеху!* З нар. песні, М. Г. 41.

ВЫНЫРА́ЦЬ, *дзеясл.* Выныраць, паказвацца з вады. *Ён як тапіўся, дык усё вынырай.* Касцюковічы.

ВЫНЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Вымаць. *Трэба вынять гаршчкі з печы.* Палуж Краснап.

ВЫ́ПАДАК, -дка, *м.* Выпадак. *Мне сёньні выпадак дапамог зарабіць пяць рублёў.* Касцюковічы.

ВЫПАДКО́ВА, *прысл.* Выпадкова. *Выпадкова нытрапіў ны дарогу.* Баброва Раснян.

ВЫПАДКО́ВЫЙ, *прым.* Выпадковы. *Сёньнешні заробак — выпадковы.* Касцюковічы.

ВЫ́ПАЛАЦЬ, *дзеясл.* Выпалаць, вырваць зелле на градах ці ў пасевах. *Асот — калючыя трыва, расцець у пашаніцы і ў ячмені. Калі яе ня выпалаць мыладую, тады проста нельга жаць.* Пірагова Мсцісл.

ВЫ́ПЕРАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Выперадзіць. *Дывай пубяжым: хто каго выперадзіць?* Палуж Краснап.

ВЫ́ПЕРЗІЦЦА, *дзеясл.* Зваліцца, упасці. *Іна як выперзілась з воза, дык чуць ачухылась.* Куркаўшчына Мсцісл.

ВЫПІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Выпіваць. *Мы толькі селі выпіваць, а йты пыдасьпеў, садзіся.* Бяседавічы Хоцім.

ВЫПІНА́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Браць на сілу. *Дос табе выпінацца, адна ўсё ні перадзелыйш!* Лешчынка Мсцісл. 2. Выходзіць наперад. *Ня выпінайся там наперад, стэй роўна!* Касцюковічы.

ВЫПІНА́ЦЬ, *дзеясл.* Выпінаць, выстаўляць наперад. *Ты ні выпінай дужа грудзі.* Касцюковічы.

ВЫПІРА́ЦЦА, *дзеясл.* Вылазіць пад націскам. *Сена ў пуні дужа многа ныкладзіна, аж выпіраіцца ў вароты, і іх нільга зачыніць* Арцёмаўка Міласл. *Куды ты выпіряісься пупярёд усіх?* Б. Хутары Краснап.

ВЫ́ПІРЦІ, выпірць, *дзеясл.* Выперці, выціснуць, выгнесці. *Кап табе выпірла твыя гузёжніца.* Горкі Краснап.

ВЫПІРЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Выпіраць, высоўваць. *Нешта снапы зь етый стыраны выпіряюць, глядзі што воз рызваліцца.* Б. Хутары Краснап.

ВЫ́ПІТРЫЦЬ, *дзеясл.* Выпетраць, высахнуць. *Ат хвароба мой бацька так выпітрій, што глядзець страшна.* Слаўнае Мсцісл. *Мазкі твае выпітрылі.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ́ПІЎКА, -і, *ж.* Выпіўка. *Выпіўка была добрыя, а закусь ні важныя.* Маластоўка Краснап. *Ня столькі тае выпіўкі было, скolькі дакору.* Гібалы Касцюк.

ВЫ́ПІЦЬ, *дзеясл.* Выпіць. *І іна і мужык яе — абоя любяць выпіць.* Старае Сяло Мсцісл. *Як празьнік, дык ужу і карціць яму выпіць.* Арцёмаўка Міласл. *Хуць бы ты даў мне вады выпіць — смагу прагнаць.* Гібалы Касцюк. *Карова выпіла ражку пойла.* Горкі Краснап. *Выпій вады пойны карэц.* Бель Мсцісл.

ВЫ́ПЛІСЬЦЬ, выплесьці, *дзеясл.* 1. Выплесці. *Выпліту ўплёт з русых кос, ‖ Ды павешу ўплёт на прыклёт.* З нар. песні. Сапрынавічы Мсцісл. 2. Сплесці. *Нада кошык выплісьць, ато бульбу кыпаць не ўва шта.* Баброва Раснян.

ВЫПЛО́Д, -у, *м.* Парода, племя. *Надта добры выплод у цябе кароў.* Касцюковічы.

ВЫПРА́ВА, -ы, *ж.* Асанка, звычка трымацца. *Выправа ў іго мыладзецкыя: ідзець — гылавы ня схіліць,* Б. Хутары Краснап.

ВЫ́ПРАВІЦЦА, *дзеясл.* Выправіцца, выбрацца, накіравацца. *Мікіта выправіўсь ны шахты.* Палуж Краснап. *Толькі выправіўся ў горыд, а тут на табе — нада ў сельсавет іціць.* Пячонкі Раснян.

ВЫ́ПРАЖ, -ы, *ж.* Вупраж. *Выпраж у кыня добрыя.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫПРУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Выправаць. *Ны падніззі жыта выпрувая.* Навашоўкі Раснян.

ВЫ́ПРЫСТЫЦЬ, *дзеясл.* Выпрастаць, выраўнаваць. *Крываць дужа каротка, нільга ног выпрыстыць.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́ПРЫЎКА, -і, *ж.* Выпраўка, манера трымацца. *Во, выпрыўка ў етый дзеўкі: ідзець, дык што паня, і талія ў яе ўсё роўна, што ў барыні якей раньшы.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́ПСА, -ы, *ж.* 1. Сабачая морда (лаянка). *Ах ты, выпса, ты, выпса, і што ета ты дзелыіш?* Касцюковічы. *Глядзіць, як выпса.* Палуж Краснап. 2. Пагардлівая назва старой дзеўкі. *Ніхто замуж ні ўзяў, дык і жывець вось выпсыю.* Касцюковічы.

ВЫ́ПУСК, -а, *м.* Выган. *Гані гусей на выпуск.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ́ПУСЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Выпусціць. *Етыга можна выпусьціць.* Пірагова Мсцісл. *На што ета вы сьвіньней з хлева выпусьцілі?* Баброва Раснян.

ВЫ́ПУЎЗЫК, -зка, *м.* Пранырa, прылаза. *Во, выпуўзык етый, усюдых ён ёсьць, ідзе нада, а йдзе дык ба і ні нада, а тырчыць.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́ПУЎНІНЫЙ, *прым.* Выкананы. *Выпуўнiный доўг абліхчаіць серца.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫПЫДА́ЦЬ, *дзеясл.* Выпадаць, прыпадаць. *У аўторык ікраз выпыдаіць сьвята. Ны мяне ўсяды выпыдзіць бяздольля, куды б ні пашоў, што б ня дзелый, што-што ды дрэнныя зьдзелыіцца.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́ПЫДЫК, -дка, *м.* Хвароба ў коней, выпадзенне поўсці. *У кыня выпыдык — поўсьць лезя.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ́ПЫЛЫСКАЦЬ, *дзеясл.* 1. Выпаласкаць. *Плацьця памыла, толькі зысталося выпылыскаць.* Пячонкі Раснян. 2. Званітаваць. *Як зьеў етыга, дык начыста выпылыскыла.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ́ПЫЛЫЦЬ, *дзеясл.* Выпалаць. *Нада выпылыць рыжык увы льне.* Хвёдараўка Краснап. *Абшчэпюцца ўдзьвюх і накоюцца — каб жыта ў трубы вілося, а месьцічка тоя, дзе жыта дажнуць, выпылюць — каб у жыці зельля ні расло.* Пячонкі Раснян.

ВЫ́ПЫРЫЦЦА, *дзеясл.* Выпарыцца, прапарыцца. *Ты, як пойдзіш у лазьню, дык духу ня бойсь, а узьлезь ны палок ды выпырся хырашэнька — уся ламота пройдзіць.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́ПЫСЬЦЬ, *дзеясл.* Выпасці, здарыцца. *Нада ж такому бісчасьцю выпысьці — пасьледнія карова здохла.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́ПЫТ, -а, *м.* Выпыт, выпытванне. *Тваe выпыты ні да чога ні дывядуць, і нічога ты ў яе ні дыпытаісься.* Лешчынка Мсцісл.

ВЫ́ПЫТЫ, -ыў, *мн. л.* Разведка, якую робяць сваякі засватанай дзеўкі ў людзей таго сяла, куды засватана, пра жаніха і яго радню. *Ягорыва жонка пышла на выпыты ў Палуж пра зяця.* Б. Хутары Краснап.

ВЫ́ПЫТЫЦЬ, *дзеясл.* Выпытаць. *Ён хацеў выпытыць праўду, дык усякімі манерымі к ім пыдхадзіў.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫПЫЎЗЫ́К, -зка, *м.* Вужова скура, якую ён скідае ў час ліняньня. *Сяньні мы нашлі зьмяіный выпыўзык, я вяпред думыў, што жывая зьмія ляжыць, ажно адна скура.* Бяседавічы Хоцім. *Знайшоў я зьмяіный выпыўзык.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ́ПЫЎНІЦЬ, *дзеясл.* Выканаць, *Што задумылі, нада абізацілна выпыўніць.* Горкі Краснап.

ВЫ́РАБ, -а і -у, *м.* Выраб. *Але добрыга вырабу гэтыя хустка.* Касцюковічы.

ВЫ́РАДАК, -дка, *м.* Вырадак. *Ён нейкі вырадак: ні ў нашу сямью ўдаўся.* Дубец Касцюк.

ВЫРАЖБА́, -ы, *ж.* Варажба. *Ішчо шмат людзей, якія веруць у выражбу.* Касцюковічы.

ВЫРАЖБІ́Т, -а, *м.* Вядзьмак, варажбіт. *Ета ж вялікі выражбіт: ён усё табе можаць зрабіць: і добрыя, і дрэнныя.* Ушакі Чэрык.

ВЫРАЖБІ́ТКА, -і, *ж.* Варажбітка. *Етыя цыганка добрыя выражбіттка — усю праўду скажыць.* Касцюковічы.

ВЫРАЖБІ́ЧКА, -і, *ж.* Варажбітка. *Выражбічка зь цябе добрыя.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫРАЖЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Варажыць. *Дзеўкі ў кыляды выражылі.* Чыгрынаўка Раснян.

ВЫРАЖЭ́Я, -і, *ж.* Варожка, варажбітка. *Пыйшла к выражэі, што іна скажыць.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫРА́ЗЬЛІВА, *прысл.* Выразна, ясна. *Твой хлопчык надта выразьліва гаворыць.* Большая Буда Касцюк.

ВЫ́РАЙ, -ю, *м.* 1. Вырай, цёплы край, куды ляцяць птушкі на зіму. *Птушкі вылящелі ў вырай.* Большая Дуброва Касцюк. *Буслы з выраю прыляцелі, вісна будзе.* Пячонкі Раснян. 2. Паяўленне пералётных птушак. *Сёньня я бачыў вырай.* Куляшоўка Клім.

ВЫРАНЫ́Й, *прым.* Вараны, чорнай масці. *Ны кірмашы бачыў я вогіра вырынога, але ж такі чорны, аж блішчыць.* Баброва Раснян. *Твой выраны нешта схудняў — аўсу мала даеш.* Чыгрынаўка Раснян.

ВЫ́РАСЬЦІ, вырасьць, *дзеясл.* Вырасці. *Вырас вірзія, ды дурный; і калі ты ўжо розуму ныбярэсься?* Пірагова Мсцісл. *Ны дарогі лі Клімавіч стыяў стары дуб, ны баку якога вырас какшун вяршкоў у пяць.* Вітрунь Касцюк. *На том лабыру нічога ня сей, нічога ня вырасьціць.* Краснаручча Раснян.

ВЫРАТНІ́К, -а, *м.* Каўнер. *Стаў атрісаць жупан ат пылу, ды выратнік атырваў.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫРАЎНЯ́, -і, *ж.* Пограб, яма, куды ўзімку хаваюць бульбу. *Зачыняй выраўню, ато мароз зойдзе.* Мсціслаў.

ВЫРВА́ЛЫК, -лка, *м.* Вялікі кавалак. *На што ты нарезыў мяса вырвалкымі, треба драбней.* Палуж Краснап.

ВЫ́РВАС, -а, *м.* Варвас, жулік. *Ат етыга вырвыса нічога ні ўкрыецца — усюды ён угледзіць, усюдых знойдзіць.* Пячонкі Раснян.

**ВЫРВАСЮ́ГА**, -і, *м.* Павеліч. ад вырвас. *Вырвасюга етый надзелыў шкоды, чорт яго ведае сколькі.* Хвёдараўка Краснап.

**ВЫ́РВАЦЬ**, *дзеясл.* Вырваць. *Нашто ты вырваў касу ў пеўня?* Тур'е Чэрык. *Янка вырваў клок хахольля.* Чыгрынаўка Расняп. *Вырві кацелышнік ды складзі ў кучу.* Хвёдараўка Краснап.

**ВЫ́РВЫНЫЙ**, *прым.* Вырваны. *Я думала, кнопка ў кохці расшпіліна, а іна аказываіцца вырвына.* Арцёмаўка Міласл.

**ВЫ́РВЫЦЦА**, *дзеясл.* Вырвацца. *Гузіна вырвылыся.* Палуж Краснап. *У куўнярьі вырвыўся гаплік, а цяперь так во рысьцягнутый хаджу.* Слаўнае Мсцісл.

**ВЫРКАТЛІ́ВЫЙ**, *прым.* Барматлівы. *Сапрон наш дужа выркатлівый дзед.* Палуж Краснап.

**ВЫРКАТУ́Н**, -а, *м.* Барматун, чалавек, што вечна бармоча. *Дзед наш выркатун: увесь дзень бурчыць.* Палуж Краснап.

**ВЫРО́Д**, -а, *м.* Выраджэнне. *На його род прійшоў вырод — усі пуўміралі, нікога ні зысталысь.* Б. Хутары Краснап.

**ВЫРСАНУ́ЦЬ**, *дзеясл.* Варсануць, ударыць. *Нейкій злодзій вырсануў хлыпца нажом.* Брылёўка Краснап. *Як вырсануў яму нажом пад бок.* Горкі Краснап.

**ВЫ́РУБІЦЬ**, *дзеясл.* Высечы. *Пайдзём і вырубім некалькі хлыстоў.* Тур'е Чэрык. *Вырубій дзьве чашкі і пашоў.* Вародзькава Крыч.

**ВЫ́РУГЫЦЬ**, *дзеясл.* Аблаяць. *Гэткія зьнівагі я ў жыцьці ня чуў — так выругыць, а за што?* Добрае Мсцісл.

**ВЫ́РУЧЫЦЬ**, *дзеясл.* Выручыць, вызваліць. *Ты ж мяне зь бяды выручыў.* Лешчынка Мсцісл.

**ВЫРЫБЛЯ́ЦЦА**, *дзеясл.* Вырабляцца. *Хутка ў нас пачнуць вырыбляцца хусткі і панчохі.* Касцюковічы.

**ВЫРЫБЛЯ́ЦЬ**, *дзеясл.* Вырабляць. *У Касьцюковічы будуць вырыбляць хусткі і панчохі, тады таньней будзе.* Вітрунь Касцюк.

**ВЫ́РЫБЫТКА**, -і, *ж.* Выраб. *Вырыбытка етый кожы дужа харошыя — іна вады ні прыпускаіць і крепка.* Арцёмаўка Міласл.

**ВЫ́РЫБЫТЫНЫЙ**, *прым.* Выраблены. *Нада зыбраць у вайчыньніка вырыбытыныя аўчыны.* Арцёмаўка Міласл.

**ВЫ́РЫДАК**, -дка, *м.* Вырадак. *Во вырыдак — ні ў бацьку, ні ў матку.* Парадзіна Мсцісл. *Іш ты яго, вырыдак!* Прусіна Касцюк. *Урадзіўсь нейкі вырыдак, ні на кога ні пахож: ні на дзеда, ні ны бацьку, ні ны матку.* Бяседавічы Хоцім.

**ВЫРЫЖА́ЦЬ**, *дзеясл.* 1. Выражаць, выказваць. *Нямый вырыжаў сваe думкі рукамі і нешта мычэў.* Слаўнае Мсцісл. 2. Выпраўляць у дарогу. *Вырыжаюць хлыпца ў Маскву.* Высокі Бор Краснап.

**ВЫРЫЗА́ЦЬ**, *дзеясл.* Выраза́ць. *Вырызай у кыбына пыдчарёвык.* Хвёдараўка Краснап.

**ВЫ́РЫЗАЦЬ**, *дзеясл.* Вы́разаць. *Нада вырызаць цубук.* Хвёдараўка Краснап. *Вырызаў сабе арехывый кіёчык.* Баброва Расняп.

**ВЫРЫКА́НЬНЯ**, -я, *н.* Выраканне, адмаўленне. *Ні люблю вырыканьня. Сам падбіў, а цяпер вырыкаісься?* Старае Сяло Мсцісл.

**ВЫРЫКА́ЦЦА**, *дзеясл.* Выракацца, адмаўляцца. *Піліп дужа зыпанеў, як стаў шышкый, і 'т радні вырыкаіцца.* Маластоўка Краснап. *Сказаў, а цяпер вырыкаісься?* Парадзіна Мсцісл.

**ВЫРЫСТА́ЦЬ**, *дзеясл.* Вырастаць. *Як толькі сойдзіць сьнег, у іржышчы вырыстаюць тыўкачыкі.* Пірагова Мсцісл. *Толькі ў пычатку мая, калі вырыстаіць у полі трыва, статку ёсьць чым жывіцца ны пашы.* Сохана Мсцісл.

**ВЫ́РЫСЬЦЬ**, вырасьці, *дзеясл.* Вырасці. *Высока вырысла ета дрэва.* Вярбоўка Расняп. *Кіёўнік вырыс вялікі, а кіюшык мала на ём.* Бяседавічы Хоцім. *Летысь яшчэ шчанёнкым быў, а сёліта ўжу якей бальшэй сыбака вырыс.* Арцёмаўка Міласл. *Еткій байбус, пасьці пад неба вырыс, а работыць ня ўмеіць.* Слаўнае Мсцісл.

**ВЫ́РЫЎНЯЦЬ**, *дзеясл.* Выраўняць. *Нада вырыўняць чакухый ток.* Крычаў.

**ВЫРЫЧА́ЦЬ**, *дзеясл.* Варочаць. *Дывай сена вырычаць, ато ні высыхнець.* Горкі Краснап.

**ВЫСАБІ́ЦЬ**, *дзеясл.* Вызваліць. *Высабі мяне з бяды, а я век цябе ні забуду.* Палуж Краснап.

**ВЫ́САДКІ**, -аў, *мн. л.* Высадкі, буракі ці іншая гародніна, што высаджваюцца ўвесну для атрымання насення. *Нада пысадзіць высадкі — ужо цяпло.* Хвёдараўка Краснап. *Нашы высадкі пагнілі, і садзіць нечыга.* Тур'е Чэрык.

**ВЫ́САХНУЦЬ**, *дзеясл.* Высахнуць. *Ды й высах жа ты: як сугак стаў.* Дубеец Касцюк.

**ВЫСАЧЭ́НЬ**, -і, *ж.* Высь, вялікая вышыня. *На еткую высачэнь узьлез, лядзі ж ні разьбіся. Марка далёка ў высачэнь шыбая камнім.* Палуж Краснап.

**ВЫ́СВЫТАЦЬ**, *дзеясл.* Высватаць, засватаць. *Нейдзе ў Затоных высвытаў сабе дзеўку і жэніцца.* Баброва Расняп. *Высвытылі Мікылаеву дочку.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

**ВЫСІКА́НЬНЯ**, -я, *н.* Высяканне. *Крысала — ета прыбор для высіканьня агню.* Халдзееўка Чэрык.

**ВЫСІКА́ЦЬ**, *дзеясл.* Высякаць. *Ік высікалі лес ны Пячкоўцы, дык і я прывёз бярвеньняў з дваццыць.* Мсціслаў. *Высікалі, высікалі два калінавых кусточкі.* З нар. песні. Зарэчча Мсцісл.

**ВЫСІЛЁК**, -лька, *м.* 1. Памянш. ад Васіль. *Агу, Высілёк, Высілёчык мой маленькый.* Горкі Краснап. 2. *бат.* Васілёк, валошка. *Глядзі, колькі высількоў у жыці, усё сінія ад іх.* Краснаполле.

**ВЫСІ́ЛІВЫЦЦА**, *дзеясл.* Выбіцца з сілы. *Штоб ня высілівыцца, дай німнога пысядзім, атдыхнём.* Палуж Краснап.

**ВЫСІ́ЛІНЫЙ**, *прым.* Знясілены. *Я ні дыйду да дому: дужа высіліный, хуць пумірай.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫСІЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Высяляцца, пераходзіць на другое месца на жыццё. *З нашый вёскі пачынаюць высіляцца ў Сібір.* Большая Буда Қасцюк. *Яны скора будуць высіляцца з етый хаты; будуць піріїжджаць на хутыр.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫСІМНАТЦЫТЫЙ, *лічэбнік.* Васемнаццаты. *Ён жа камуніст, яшчэ ў высімнатцытым гаду пыступіў у парцію.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́СІЧ, высічы, *дзеясл.* Высечы. *Высік шваю дроў.* Хвёдараўка Краснап. *Высіклі лес, дык стала тыкая неміріч, што ні прайці, ні праехыць.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́СКАЛІЦЬ, *дзеясл.* Выскаліць. *Што ты выскаліў зубы?* Қасцюковічы.

ВЫ́СКАЧЫЦЬ, *дзеясл.* Выскачыць. *Выскачыў з агню ўвесь абпаліный.* Пірагова Мсцісл. *Пыпраў завірт, ато аглоблі выскачуць з саней.* Крычаў. *Заткыла выскачыла, і палілася выда.* Рэкта Раснян.

ВЫ́СКЫЛІЦЦА, *дзеясл.* Выскаліцца, выскаліць зубы. *У нашыга Кузьмы тыкая нікрасівыя морда: нешта як выскіліцца, ды аж гідка.* Қанічы Қасцюк. *Сыбака выскыліўсь — ды ны мяне.* Сохана Мсцісл.

ВЫ́СКЫЧКА, -і, *ж.* Выскачка, бег з падскокам. *У выскычку панёсься.* Палуж Краснап.

ВЫ́СКЫЧЫЦЬ, *дзеясл.* Выскачыць. *Зь мярлогі выскычыла лісіца.* Добрае Мсцісл. *Шворын выскычыў, конь пабег с пірядком, а воз абярнуўся.* Бяседавічы Хоцім. *Ён дужа зьлякнуўся, як душа ня выскычыла.* Б. Хутары Краснап.

ВЫ́СЛАВІЦЬ, *дзеясл.* Абгаварыць, абняславіць. *Твыя дычка так і хоча, каб каго выслявіць.* Қасцюковічы.

ВЫ́СЛУЖЫЦЬ, *дзеясл.* Выслужыць, заслужыць. *Служыш ты яму добра, але што ты выслужыш — палядзім.* Затоны Раснян.

ВЫСО́КА, *прысл.* Высока. *Сяньні твой хлопец узьлез на ліпу так высока, што страшна глядзець.* Қасцюковічы. *Бусел ляцеў высока.* Қажамякіна Крыч. *Қыла нашыга пруда ныслана высока грэбля.* Лешчынка Мсцісл.

ВЫСО́КІЙ, *прым.* Высокі. *Пы шляху рос высокій бірізьняк.* Слаўнае Мсцісл. *Я троху пытургуваўсь, дык ён, праўда, зьніжыў цану, ну толькі ета цына ны такога кыня дужа высокыя.* Арцёмаўка Міласл. *У лашчыні трыва луччый расьце, чым на высокым месьці.* Гарбавічы Қасцюк.

ВЫ́СТАНКІ, -аў, *мн. л.* Астаткі. *Яму зысталіся выстанкі.* Хоцімск.

ВЫ́СТРАІЦЬ, *дзеясл.* Пабудаваць. *Сёліта я выстраіў сяньніцу і гумно.* Красоўка Раснян.

ВЫ́СТРЫЛІЦЬ, *дзеясл.* Выстраліць, стрэліць. *Выстрыліў я раз — абмахнуўся, у другі — зноў.* Пірагова Мсцісл. *Лясьнік выстріліў, і пы лясу пашоў адгалосак.* Гібалы Қасцюк.

ВЫСТУ́ДЖЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Выстуджвацца, рабіцца халодным. *Қылі вы будзіця кардохлі ў хату насіць, дык хата будзіць выстуджывыцца і спаць будзіць халодна.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫСТУ́ДЖЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Выстуджваць. *Ні 'ткрівай дзьверí, ні выстуджывый хату.* Б. Хутары Краснап.

ВЫ́СТУДЗІЦЬ, *дзеясл.* Выстудзіць. *За дзень чыста хату выстудзілі, бегыўшы з двору, то на двор.* Высокі Бор Краснап.

ВЫСТУПА́ЦЬ, *дзеясл.* Выступаць, паказвацца. *Гыркаўка цьвіцець жоўтым цьветам, калі яе сырваць — унізе выступаець горкае мылако.* Пірагова Мсцісл.

ВЫ́СТЫВІЦЬ, *дзеясл.* Выставіць. *Матрос выстывіў голыя пелькі.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ́СТЫГНЫЦЦА, *дзеясл.* Выстагнацца, наплакацца. *Нада було даць ёй удоўль выстыгныцца, ато іна ніяк ні супакоіцца.* Добрае Мсцісл.

ВЫ́СТЫГНЫЦЬ, *дзеясл.* Выенчыць, выпрасіць. *Ні хацеў яму даць, ды як прістаў с прозьбый — выстыгныў-ткі.* Б. Хутары Краснап.

ВЫ́СТЫЎКА, -і, *ж.* Выстаўка. *Янка ны выстыўку павёў жырыбца.* Тур'е Чэрык.

ВЫ́СТЫЯЦЬ, *дзеясл.* Выстаяць. *Укыпай ты дубовыя шулы, дык вароты даўжэй выстыяць.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́СУШЫЦЬ, *дзеясл.* Высушыць. *Я ўжо высушыў сваю 'еўню.* Маластоўка Краснап.

ВЫ́СЫДКІ, -дак, *мн. л.* Высадкі, высаджаныя на насенне буракі, капуста ці іншая гародніна. *Етыя высыдкі ўжу распусьцілісь і скора цьвісьць будуць.* Арцёмаўка Міласл. *Бытата высыдкый вы сёліта нысадзілі: і бурякі, і капуста, морква.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ́СЫЛАПІЦЬ, *дзеясл.* Высалапіць, выставіць з рота язык. *Зымарыўся бягучы, аж язык высылапіў.* Рассохі Қасцюк.

ВЫСЫЛА́ЦЬ, *дзеясл.* Пасылаць, высылаць. *Дачушка татухну вон высылала: ‖ — Выйдзі, выйдзі, татухна, зы вароцейкі.* З нар. песні.

ВЫСЫПА́ЦЦА, *дзеясл.* Высыпацца, сыпацца. *Ня сып поўна, бо будзіць высыпацца.* Тульдава Раснян.

ВЫСЫПА́ЦЦА, *дзеясл.* Высыпацца, многа спаць. *Сьпі, сынок, высыпайся, бо як пайдзеш у сылдаты, то мо' там і ні дадуць.* Затоны Раснян. *Сьпі ж, мыя Юлічка, высыпайся, ‖ Ні к татухну йдзеш — к сьвёкырку.* З нар. песні, М. Г. 14.

ВЫ́СЫПАЦЬ, *дзеясл.* Высыпаць. *Куды высыпаць буракі, на бульбу ці што?* Тульдава Раснян. *Высып ты гэтую грачышку ў лазобку.* Добрае Мсцісл. *Табаку высыпалі ў кісет.* Сідараўка Краснап.

ВЫСЫПА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Высыпаць. *Высыпай гэта ў кош ды бяжы ўніз, каб там не адгрыбалі.* Қаробчына Мсцісл. 2. Каласіцца, выплываць коласу. *Жыта ўжу вялікыя, стала высыпаць, скора цьвісьці будзіць.* Арцёмаўка Міласл. *Жыта высыпая.* Маластоўка Краснап.

ВЫСЫХА́ЦЬ, *дзеясл.* Высыхаць, сохнуць, ссыхаць. *Наша вішня высыхаіць.* Рэкта Раснян.

ВЫ́СЫХНУЦЬ, *дзеясл.* Высахнуць. *Зытапі-ка ты пыдасець, ды харошымі драўмі, каб жыта ладна высыхла.* Слаўнае Мсцісл. *Німа чым пісьмо ныпісаць, усё чарніла высыхла.* Арцёмаўка Міласл. *Пылавіна агрыстніку высыхла.* Шыркі Раснян. *Гушнік ужо высых.* Рэкта Раснян.

ВЫ́СЫХШЫЙ, *прым.* Высахлы. *На дзеріві адзін сук быў саўсім высыхшый, і на ім ні кары, ні лістоў ні було.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫСЬМА́К, -а, *м.* Васьмёрка ў картах. *Схаджу я з васьмыка.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫСЬМА́КА, -і, *ж.* Васьмёрка ў картах. *А я твайго кырыля казырный высьмакый пабіў.* Высокі Бор Краснап.

ВЫ́СЬПІТКЫМ, *прысл.* Нагою. *Ён яму высьпіткым у пуза.* Крычаў.

ВЫСЬПЯ́ЧЧА, -а, *н. зборн.* Удары нагою. *Дай яму высьпяччa.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Плакаць, выць. *Дос табе высьць, ён усё роўна ні ўстаніць.* Лешчынка Мсцісл.

ВЫТВЫРЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Вытвараць, выробляць розныя штукі. *Хлопцы надзелі вывірнутыя шубкі і пычалі вытвыряць аж мы со сьміху чуць ні пымёрлі.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́ТКАЦЬ, *дзеясл.* Выткаць. *Я выткала сабе тры губкі партніны.* Пірагова Мсцісл. *Ганна выткала сабе камлёт.* Пячонкі Раснян. *Цётка выткала на лета байку ўсіх колераў.* Белы Камень Бялынкав.

ВЫ́ТКЫЦЬ, *дзеясл.* Выткаць. *Двынаццаць губык пылытна выткыла.* Маластоўка Краснап. *Выткыла я сабе ў пяць нітоў пяцерні ны рушнікі.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́ТЛУК, -а, *м.* Свавольнік. *Вытлуку лепш ні кажы — усё па-свойму зробіць.* Палуж Краснап.

ВЫТРІВА́ЛЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Вытрымалнасць, цярплівасць. *Вытрівалысьці ў яго хвытаіць, усё вытрівыіць.* Б. Хутары Краснап.

ВЫ́ТРУСІЦЬ, *дзеясл.* Вытрасці, павыбіваць пыл. *Трэба вытрусіць мяшкі, ато яны дужа мучаныя.* Касцюковічы.

ВЫ́ТРЫВАЦЬ, *дзеясл.* Вытрываць, выцерпець. *Зуб баліць, што нельга вытрываць.* Касцюковічы. *Было дужа болна, аж ён ня мог вытрывыць і стаў ні сваім голысым крічаць.* Арцёмаўка Міласл. *Ны дваре тыкая стужа, што і вытрывыць нільзя.* Лешчынка Мсцісл.

ВЫ́ТРЫМАЦЬ, *дзеясл.* Вытрымаць. *Я сёньні вытрымаў экзамін.* Касцюковічы. *Зы абразу ён ня вытрымаў і кулаком даў абідчыку плюху.* Сохана Мсцісл. *Ты адзін ня вытрымаіш, рукі зыцякуць і ўпусьціш.* Бараова Раснян.

ВЫ́ТРІСЬЦЬ, *дзеясл.* Вытрасці. *Як будзіш счышчаць с асеці, дык ні забудзь вытрісьць кылысьнікі.* Бяседавічы Хоцім.

ВЫТРЯ́ХІВАЦЬ, *дзеясл.* Вытрасаць. *Нешта твой кырман дужа аддудуряный, вытряхівый-ка яго.* Пірагова Мсцісл.

ВЫТУЛМА́ЧЫНЫЙ, *прым.* Растлумачаны. *Кажіцца, ладна вытулмачыныя дзела, а ніяк ні пайму, што ды чаго.* Б. Хутары Краснап.

ВЫТУЛМА́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Растлумачыць. *Ні магу я вытулмачыць так, як ета гываріў учыціль.* Высокі Бор Краснап.

ВЫ́ТУРЫЦЬ, *дзеясл.* Выгнаць. *За ругынь я хацеў было вытурыць яго з хаты.* Лешчынка Мсцісл.

ВЫ́ТУХНУЦЦА, *дзеясл.* Выспацца. *Будзі яго, ён ужо дос вытухнуўся.* Рассохі Касцюк.

ВЫТХА́ЦЦА, *дзеясл.* Вытыхацца. *Заткні пробкый, ато будзіць вытхацца.* Брылёўка Краснап.

ВЫ́ТХНУЦЦА, *дзеясл.* Вытхнуцца. *Гэтыя гарчыца ўжо вытхнулыся.* Пушнова Касцюк. *Сымагон вытхнуўсь.* Брылёўка Краснап.

ВЫ́ТЫПІЦЦА, *дзеясл.* Выпаліцца. *Лазьня ўжо вытыпілысь.* Рэкта Раснян.

ВЫ́ТЫПІЦЬ, *дзеясл.* Выпаліць. *Матка вытыпіла печку.* Пірагова Мсцісл.

ВЫ́ТЫПЛІНЫЙ, *прым.* Выпалены, напалены. *Хата толькі што вытыпліныя, цёпла будзіць.* Бяседавічы Хоцім. *Лазьня вытыпліна, можна мыцца.* Бараова Раснян.

ВЫ́ТЫПТАЦЬ, *дзеясл.* Вытаптаць. *Вытыптаті сьцежку ціріз сіныжаць.* Белы Мох Мсцісл. *А мы коні выпусьцім, выпусьцім, ‖ А мы просу вытыпчым, вытыпчым.* З нар. песні, М. Г. 82.

ВЫ́ТЫРГЫВЫНЫЙ, *прым.* Вытаргаваны, натаргаваны. *На вытыргывыныі зы яблыкі грошы ні пукупай нічога — доўг атдаць нада.* Б. Хутары Краснап.

ВЫ́ТЫРГЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Вытаргаваць, заплаціць меней, чым запрасілі. *Зы кыня зыпрасіў шэсьдзісят — вытыргувыў зы паўсотні.* Высокі Бор Краснап.

ВЫ́ТЫРНУЦЦА, *дзеясл.* Вытыркнуцца, высунуцца, паказацца. *Вытырнуўся хтота зь лесу і німа.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ́ТЫЧКА, -і, *ж.* Вытачка, клінок, устаўлены ў адзежы. *Зрабі ў кашулі вытычку, ато іна цесна.* Касцюковічы.

ВЫ́ТЫЧКІ, -чык, *мн. л.* Дробныя зярняткі. *Што зы няўрод сёліта на жыта — ніводныга буйныга колысу, а толькі вытычкі, зірна ні ўвідзіш.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́ТЫЧЫЦЬ, *дзеясл.* Вытачыць. *Я сяньні зы вечыр двынаццыць віряцён вытычыў.* Меншая Багацькаўка Мсцісл. *Вытыч ты мне віряцён с пару якую.* Затоны Раснян.

ВЫ́ТЫШЧЫЦЬ, *дзеясл.* Выцягнуць. *Як мы купаліся, дык Мішка зразу — бултых у ваду, чуць вытышчылі.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́ЎЧЫЦЬ, *дзеясл.* Вывучыць. *Дзяўчынка рупіцца выўчыць вурок.* Ганнаўка Клім.

ВЫХАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Выходзіць. *Трохі пыпрыўляіцца, але с хаты яшчэ ня выходзіць.* Затоны Раснян. 2. Атрымоўвацца. *У мяне нешта нічога ня выходзіць з етыга дзела.* Ганнаўка Клім.

ВЫХВЫЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Выхваляцца. *Юрка сваім канём выхвыляіцца, думыя,*

*што лепшыга зы яго кыня і ў сьвеці німа.* Янава Раснян.

ВЫХЛА́К, -а, *м.* Вахлак, неадукаваны, невук. *Ён з выхлакоў, яго бацька і цяперя ў Гніліцы бульбу сея.* Маластоўка Краснап.

ВЫХЫВА́НЕЦ, -нца, *м.* Выхаванец. *Іны бязьдзетныя самі, а ўзялі сабе сіротку ў выхыванцы.* Сохана Мсцісл.

ВЫ́ХЫПІЦЦА, *дзеясл.* Выхапіцца, выскачыць. *Голыя выхыпіліся з пыжару.* Палуж Краснап.

ВЫ́ХЫПІЦЬ, *дзеясл.* Выхапіць. *Пыжар спаліў усё — ні пасьпелі нічога выхыпіць.* Палуж Краснап.

ВЫ́ЦЕРЦЬ, вы́церці, *дзеясл.* Выцерці. *Дай чым выцерці рукі. Вытры вось етый тряпкый.* Малюшын Краснап. *Пыдай мне рушнік выцерці рукі.* Вярбоўка Раснян. *Вытры нос — расмаргайся, як у трубу!* (на дзіця). Пірагова Мсцісл.

ВЫ́ЦІГНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Выцягнуць. *Іна дужа слыбая, і ні мыгла дайжа с калодзіся вады выцігнуць.* Арцёмаўка Міласл. *Мой сын бяздольнік: выцігнуў жэрібя іці ны вайну.* Слаўнае Мсцісл. *Нехта с кішэні грошы выцігнуў.* Маластоўка Краснап. *Гвозд зыржавеў, без апцугоў ня выцігніш, пакінь.* Янаўка Мсцісл. 2. Выцяць, ударыць, стукнуць. *Выцігнуць табе па мо́рдзі за ета.* Б. Хутары Краснап.

ВЫЦІРА́ЛЬНІК, -а, *м.* Ручнік. *Выціральнік дужа грязный, хуць бы ты яго памыла.* Крычаў.

ВЫЦІРА́ЦЦА, *дзеясл.* Выціраццa. *На, выцірайся рушніком.* Галоўчыцы Клім.

ВЫЦІРА́ШКА, -і, *ж.* Жанчына лёгкіх паводзін. *Выцірашка тая ў аднэй мыладухі мужыка адбіла, а як кінуў, дык іна к другому пыдкацілысь.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́ЦІРПІЦЬ, *дзеясл.* Выцерпець. *Я ня выціртлю етыга зьдзеку.* Робцы Раснян.

ВЫ́ЦІРЬЦЬ, *дзеясл.* Выцерці. *Памый рукі і пычаў іскаць вычамі ны сьцяне рушнік, штоб выцірьць.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́ЦІСАЦЬ, *дзеясл.* Вычасаць. *Васіль выцісаў бярозывы брусок ны граблі.* Бязводзічы Мсцісл.

ВЫ́ЦІСКА́ЦЬ, *дзеясл.* Выціскаць. *К вялікыдню у нас усягды выціскаюць творыг і дзелыюць сыры.* Пірагова Мсцісл.

ВЫ́ЦІСНУЦЬ, *дзеясл.* Выціснуць. *Выцісьні гной з болькі — лягчэй будзе.* Немерка Раснян.

ВЫЦЫГАНІНЫЙ, *прым.* Выцыганены, выпрашаны настойлівай просьбай. *Выцыганіный ў сястры грошы прапіў, пьяніца етый.* Б. Хутары Краснап.

ВЫ́ЦЫГАНІЦЬ, *дзеясл.* Выцыганіць, выпрасіць. *Выцыганіў грошы ў мяне.* Хвёдараўка Краснап. *Ік прістаў ды мяне, і выцыгыніў-ткі пяць рублёў.* Высокі Бор Краснап.

ВЫЦЫЛІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Быць цэлым, зберагачыся, захавацца. *Там трудна хлебу выцылівaць, дзе яго мала.* Касцюковічы.

ВЫЦЬ, *дзеясл.* Выць, плакаць, прычытаць. *Годзь табе выць па ём, етым жа ты яго ні падыміш, а сабе вочы выплачыш.* Бяседавічы Хоцім. *Як мне сумна бываг, дык я тады выю.* Прусіна Касцюк. *А брат воўкам выць,* || *Бырадою міскі мыць.* З нар. песні. Мсціслаў.

ВЫ́ЦЬВІСЬЦЬ, вы́цьвісьці, *дзеясл.* 1. Выцвісці, змяніць колер пад уплывам сонца. *Тваё паліто дужа выцьвіла.* Дзямідавічы Касцюк. 2. Выліняць (пра коней). *Коні ўжо выцьвілі.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫЦЬМІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Выцвітаць, змяняць колер пад уплывам сонца. *Твыя шапка ўжо пачынае выцьміваць.* Касцюковічы.

ВЫЦЯ́ГЫВЫНЬНЯ, *дзеясл.* Выцягваць. *Нячыстыя тваё выцягывыньня.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫЦЯ́ГІВЫЦЬ, *дзеясл.* Выцягваць. *Дзед выцягівыць апцюгамі гвозьдзя з палкі.* Стары Дзедзін Міласл.

ВЫ́ЦЯГНУЦЬ, *дзеясл.* Выцягнуць. *Конь зытапіўся ў багні, ледва выцягнулі.* Гібалы Касцюк. *Пыкалелі мы саўсім, пакуль выцягнулі бульбу з погрыба.* Пірагова Мсцісл.

ВЫ́ЦЯЦЬ, *дзеясл.* Выцяць. *Хлопчык выцяў кіем сыбаку.* Стары Дзедзін Міласл.

ВЫЧАВІ́Д, *прысл.* На вачах, увачавідкі. *Ён табе ў вычавід, прі ўсіх такую штуку атпаліць, як быццам табе вочы зывізаў.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́ЧЫРКНУТЫЙ, *прым.* Выкраслены. *Я быў вычыркнутый з сьпіскыў пы налогу, а цяпер ізноў зыпісалі.* Слаўнае Мсцісл.

ВЫ́ЧЫУРЫЦЬ, *дзеясл.* Высахнуць, схудзець. *Коні вычыўрылі.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫЧЫШЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Чысціць, рабіць чыстым. *Нада лепшы вычышчаць атору, калі малоцім, ато тады многа кыласкоў у зірнятых.* Пірагова Мсцісл.

ВЫ́ЧЫШЧЫНЫЙ, *прым.* Вычышчаны. *Карэц вельмі добра вычышчыный.* Шумячы.

ВЫШ, -ы, *ж.* Вышыня. *Узьлез ны гару дый гаворя: «Божа мой, йікая выш!»* Палуж Краснап.

ВЫШАКО́МІЦЦА, *дзеясл.* Гардзіцца, лічыць сябе вышэй за другіх. *Ні вышакомся ты дужа — я цябе ведыю.* Горкі Краснап. *Досыць табе вышакоміцца, быццым ня ведуюць, хто ты.* Гібалы Касцюк.

ВЫШАПРУ́Д, -а, *м.* Слабы, захудалы чалавек. *Ах ты, вышапруд нішчаснэй, зь кім ты бярэсься, я цябе рысьцягну, як мыш якую.* Горкі Краснап. *Падумыіш, еткі вышапруд, ды яшчэ зыдаецца, ніпуцьцё еткыя.* Слаўнае Мсцісл.

ВАШАПРУ́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Задавацца. *Звалі яго ны свадзьбу, дык ён вышапрудзіцца яшчэ: «Знай, хто я».* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́ШКА, -і, *ж.* Вышка, вежа. *На бузгорку вышку пыставілі, вісокыю, вісокыю.* Высокі Бор Краснап.

ВЫ́ШКІ, вы́шак, *мн, л.* 1. Гара, месца ад столі да страхі. *Нясі бяльлё на вышкі.* Палуж Краснап. *Злазь-ка на вышкі, паглядзі, ці ні нада там моху прібавіць ці пяску, ато халодна будзіць у хаці ўзімку.* Арцёмаўка Міласл. *Яблыкі зьнімаюць з дзярэў і кладуць на вышкі ны хату на зіму.* Пірагова Мсцісл. 2. Насланыя жэрдкі на бэль-

ках у хляве або ў гумне. *Ётый воз гря́чы-хі саўсім мокрый, нада яго пылажыць на вышкі.* Бяседавічы Хоцім. *Вышкі поўны накладзены выкам.* Пухнава Раснян. *Сена пылажылі на вышкі.* Касцюковічы.

ВЫ́ШКРЫБСЬЦІ, *дзеясл.* Выскрабці. *Зілязьнікам нада гразь вышкрыбсьці.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫ́ШЛЕПЫЦЬ, *дзеясл.* Абысці. *Ён устаў ноччу і доўга шлепуў пы хаці, тады пашоў на ворык, вышлепыў там усі куткі, тады прішоў і зноў лёг.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́ШЛІПЫЦЬ, *дзеясл.* Нашлёпаць, набіць. *Дзіцёнык плачыць, што мамка вышліпыла.* Палуж Краснап.

ВЫ́ШНІК, -а, *м.* 1. Гара, месца ад столі да страхі. *Злазь на вышнік і пызьнімай бялізну.* Касцюковічы. 2. Дама ў картах. *Пайду вышніка, ён ні паб'ець — у яго ніжнік.* Хвёдараўка Краснап.

ВЫШТУРХА́ЦЬ, *дзеясл.* Выштурха́ць, выпіха́ць. *Нада ж ета: з хаты ўсіх выштурхаіць, вуніят етый.* Высокі Бор Краснап.

ВЫШТУ́РХІВЫЦЬ, *дзеясл.* Выштурхваць, выпіха́ць. *Ік рыззлываўсь, дык усіх выштурьхівыць пычаў.* Краснаполле.

ВЫ́ШТУРХНУЦЬ, *дзеясл.* Выштурхнуць. *Ён хацеў яго пьяныга выштурхнуць з хаты.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́ШТУРХЫЦЬ, *дзеясл.* Вы́штурхаць, выправадзіць. *Нада яго з хаты выштурхыць так, штоб ніхто ні замеціў, як-нібудзь, быццам весьць яго куды-небудзь.* Стары Дзедзін Міласл.

ВЫШУ́КЫВЫНЬНЯ, -я, *н.* Вышукванне, пошукі. *Мы зыняліся вышукывыньнем рознага стар'я на вышках.* Пірагова Мсцісл.

ВЫ́ШУКЫНЫЙ, *прым.* Вышуканы, шуканы. *Счэзла мыя кохта; усюдых ужу вышукыныя, і нідзе ні знаходзіцца.* Палуж Краснап.

ВЫ́ШУКЫЦЬ, *дзеясл.* Вышукаць. *Аббегыла ўсі двары, вышукыла куріцу, нідзе ні знайшла. Ястріб яе ўзяў, ці што?* Высокі Бор Краснап.

ВЫШУРЭ́НЬНЕ, -я, *н.* Вышароўванне, вымыванне з дапамогаю жорсткай рэчы. *Як зрабіла вышурэньне падлогі, дык і чыста вымылыся.* Пушкова Касцюк.

ВЫ́ШЧЫПНУЦЬ, *дзеясл.* Вышчыпнуць, сарваць. *Я вышчыпнула дзьве вішынькі, дык яму й тых шкода стала.* Немерка Раснян.

ВЫ́ШЧЫТЫНЫЙ, *прым.* Вылічаны. *Дываў грошы, ды забыўся за доўг зыдзіржаць, дык ён і зыстаўсь за ім нявышчытыный.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́ШЧЫТЫЦЬ, *дзеясл.* Вылічыць. *Вышчытый ты мне, а сколькі мне прыдзецца зыплаціць пыдатку сёліта?* Немерка Раснян.

ВЫ́ШЧЫРЫЦЦА, *дзеясл.* Вы́шчарыцца, смяяцца. *Во вышчырыўсь — рад дужа! Ня сьмейся раней часу!* Старае Сяло Мсцісл.

ВЫШЫВА́НЫЙ, *прым.* Вышываны, вышыты. *Наста на выбразы павесіла вышываный набожнік.* Гібалы Касцюк. *Надзела новыю спадніцу, кохту і пыдпірізала вышываный хвартух.* Арцёмаўка Міласл. *Вышываныя кашуля.* Хоцімск.

ВЫШЫВА́НЬНІЦА, -ы, *ж.* Вышывальніца, жанчына, што ўмее добра вышываць. *Іна ў мяне добрыя вышываньніца — пылядзіця, як вышыла палікі ў кашулі.* Немерка Раснян. *Зынясі ды вышываньніцы хвартух, ніхай вышыіць ладна.* Большая Багацькаўка Мсцісл.

ВЫШЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Вышываць. *Дзяўчына вышывала набожнік.* Юшкавічы Раснян. *Учоры вышывала жыніху рубаху.* Арцёмаўка Міласл.

ВЫ́ШЫЦЬ, *дзеясл.* Вышыць. *Хадоска вышыла сабе на сароццы палікі.* Гібалы Касцюк. *Мы к Первыму маю вышылі новый хлаг бальшымі белымі буквымі.* Арцёмаўка Міласл.

ВЭН, *часц.* Вось там, вунь. *Ты кыня шукаіш? Вэн твой конь.* Гібалы Касцюк.

ВЯДЗЕ́РЦА, -а, *н.* Памянш. ад вядро. *Дай маё вядзерца, пы ваду схадзіць нада.* Шарэйкі Касцюк.

ВЯДО́МА, *прысл.* Вядома. *Мне ета места вядома, ня першы раз я тут бываю.* Бяседавічы Хоцім.

ВЯДО́МЫЙ, *прым.* Вядомы. *Брахун вядомый, яго ў ступі тыўкачом ні пыймаіш!* Парадзіна Мсцісл.

ВЯДРО́, -а, *н.* Вядро. *У нас вельмі вялікыя вядро, цяжка ваду насіць.* Зялёны Луг Мсцісл. *Зынясі вядро к бляхырю, дык ён і пачыне.* Касцюковічы. *А ў бабре, сваццця, а ў бабре, ‖ А нясі гарелкі ў вядре!* З нар. песні, М. Г. 39.

ВЯЗ, -а, *м.* 1. *бат.* Дрэва, вяз. *У нашым лясу расьцець дуб, граб і вяз.* Цёмны Лес Раснян. 2. Звязка капылоў у санях. *Добра загнуўся вяз.* Ташна Клім. *Вяз адзін пырваўсь, нада зьмяніць, ато выехаць будзіць нельга.* Немерка Раснян.

ВЯЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Вязаць. *Дзяўчаты вязалі карункі, а хлопцы ў карты гулялі.* Юшкавічы Раснян. *Карункі вяжуць з куплёных нітык.* Карма-Пайкі Крыч. *Дзелыйця вы, бабы, кряпчэй перівізь і вяжыця кряпчэй снапы, ато як возьмеш сноп у рукі, дык ён і разьедзіцца.* Арцёмаўка Міласл.

ВЯЗЁНКА, -і, *ж.* Вязаная з нітак рукавіца. *Зьвізала сабе вязёнкі, дык рукі ні мёрзнуць.* Парадзіна Мсцісл. *Прінясі мне пруткі, я буду візаць вязёнкі.* Бяседавічы Хоцім. *Нада вязёнкі ўзяць, золка ны дварэ.* Палуж Краснап.

ВЯ́ЗКІЙ, *прым.* Вязкі, што дрэнна колецца. *Вязкыя асіна.* Хвёдараўка Краснап.

ВЯЗО́К, візка, *м.* 1. Малады вяз і кара вяза. *Я сяньні сыдраў пяць вязкоў, будзіць пар пяць пыхлапнёў.* Горкі Хоцім. 2. Памянш. ад вяз. *Я нідаўна толькі загнуў вязкі ў сані, а ўжо нияк і пырваліся — нада новыя дзелыць.* Цёмны Лес Раснян. *Дубовыя вязкі кряпчэй зы лазовыя, сані большы жывуць.* Бяседавічы Хоцім.

ВЯ́ЗЬЗЯ, -я, *н.* *зборн.* Вязз‌е, вязы. *Вязьзя — гэта дно саней і аснова: як яны моцныя, дык і сані моцныя.* Дрыбін. *Ны тваіх сынях рызлымаліся вязьзя.* Новыя Капачы Мсцісл.

ВЯЗЬМО́, -а, *н.* Вязьмо, перавясла. *Дзелый крепкыя вязьмо, каб сноп ні рас-*

*сыпыўся.* Слаўнае Мсцісл. *Зрабі мне вязьмо зьвязаць сноп.* Прусіна Касцюк.

ВЯЗЬЦІ, *дзеясл.* Везці. *Вязі на пруд малоць.* Бялішчына Мсцісл. *Чылавек вязець гной.* Студзянец Касцюк.

ВЯ́КЫЛА, -а, *н.* Чалавек, што прыстае з пустымі размовамі. *Во ўжо нейкыя вякыла, ні адчапіцца.* Слаўнае Мсцісл.

ВЯ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Надакучаць пустымі размовамі. *Кінь ты ўжо вякаць, як сыбака, ато ныдаела слухаць.* Касцюковічы.

ВЯЛЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Загадаць. *Вучыцель вялеў купіць паперы.* Робцы Раснян.

ВЯЛІКАДНЕ, -я, *н.* Вялікдзень. *Скора наступіць вялікадне.* Крычаў.

ВЯЛІКАНЬНЯ, -я, *н.* Вялікдзень. *Бацька купіць табе к вялікаНЬНЮ картуз.* Гібалы Касцюк.

ВЯЛІ́КІЙ, *прым.* Вялікі. *Дзьве нядзелі — срок ні вялікій.* Арцёмаўка Міласл. *Вялікыя пайка твыя, што ты туды ні пыпаў.* Хвёдараўка Краснап. *Кыла нашыга гумна стыяць тры вялікія ігрушы.* Пірагова Мсцісл. *Сёліта скот ны бызарі меіць вялікій збыт. У мяне дужа вялікыя ступня.* Слаўнае Мсцісл.

ВЯЛІКО́ДНЫЙ, *прым.* Велікодны. *Гэта ў цябе яшчэ зыстаўся вялікодны пірог?* Касцюковічы.

ВЯЛІ́КЫДНЯ, -я, *м.* Вялікдзень. *У нас хлеба нідыхват; ды вялікыдня можа дыцягнім, а тады на адны кардохлі сядзім.* Арцёмаўка Міласл.

ВЯНЕ́Ц, вінца́, *м.* 1. Вянок, вянец, звяно бярвенняў на сценах хаты. *Плотнікі за дзень зрубілі два вянцы.* Касцюковічы. *Хата рубіцца ў трынаццыць вянцоў.* Вародзькава Крыч. 2. Вянец, вянчанне. *Мыладыя к вянцу паехылі.* Немерка Раснян. *Як будзіш, Лявонка, к вянцу ехыць, ‖ Ні забудзь, Лявонка, ды ны татухну!* З нар. песні. Зарэчча Мсцісл.

ВЯНО́К, вянка, *м.* Вянок. *Ірвіця, дзеткі, краскі, я вам спляту вянок.* Гарбавічы Касцюк. *Надзела вянок і пышла ў танок.* Горка Краснап. *Пакінь, дачухна, вянкі віць, ‖ Хадзі са мною мёду піць.* З нар. песні, М. Г. 8.

ВЯНО́ЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад вянок. *Мне ж вас, красычкі, ні шчыпаці, ‖ І ў вяночкі ні ўвіваці.* З нар. песні. Зарэчча Мсцісл.

ВЯПРУ́К, -а, *м.* Вяпрук, кормлены падсвінак. *Сёлета я ныклала повен кубел сала, ажно трох вяпрукоў забілі. Чаго ета ў вяпрука ўвесь лыч у крыві?* Пірагова Мсцісл.

ВЯПРУЧО́К, -чка, *м.* Памянш. ад вяпрук. *Ці ня чуў ты, хто б вяпручка прыдываў — мне конча нада купіць.* Немерка Раснян. *Кінь ты мне вяпручка на 'бзаводык!* Пірагова Мсцісл.

ВЯРБА́, -ы, *ж. бат.* Вярба. *Вярба расьцець ўсё больш на берагах рэк або глыбокіх аборкаў.* Пірагова Мсцісл.

ВЯРЕ́ЎКА, -і, *ж.* Вяроўка. *Пылядзі ў гумне ны сьцяне вярёўка, прінясі яе сюды.* Пушкова Касцюк. *Вызывая вярёўка каротвыя — ні гадзіцца.* Арцёмаўка Міласл.

ВЯРЁВЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад вяроўка. *І з кім ты бярэсься? Ён жа цябе ў вярёвычку скруціць.* Тульдава Раснян. *Ты стругаў стружкі з белых рук маіх, ‖ Віў вярёвычкі з русых кос маіх.* З нар. песні. Большая Багацькаўка Мсцісл.

ВЯРЗЕ́Я, -і, *ж.* Пустая мова, брахня. *Нялюба слухаць тваю вярзею.* Куляшоўка Клім.

ВЯРЗІ́ЛА, -ы, *м.* Пустамеля. *Вярзіла ты, чаго вярзеш німаведыма што?* Лютня Краснап.

ВЯРЗЬЦІ, верзыць, *дзеясл.* Вярзці, ілгаць. *Янка вярзець, што нялюба слухаць.* Куляшоўка Клім. *Ты сяньні, як вірзія — вярзеш, што ў гылаву ўзыйдзець.* Канічы Касцюк.

ВЯ́РКЫЦЬ, *дзеясл.* Гаварыць павучальным тонам. *Ды дос табе ўжо вяркыць, апрыкла, пакінь!* Старае Сяло Мсцісл.

ВЯРНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Вярнуцца. *Сьвірыд вярнуўся двору, як стала прыміркаць.* Тур'я Краснап. *Пыбылі мы там і ніўзыбаве вярнулісь ныад.* Арцёмаўка Міласл. *Мы скора вернімся: бавіцца нам не за чым.* Дубеец Касцюк. *Раней прыдаў усё, думыў жыць у горыдзі, а цяперь вярнуўся голым быбылём.* Слаўнае Мсцісл.

ВЯРНУ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Вярнуць назад. *Ці Ігнат ужо двору пашоў? Вярні ты яго ныад.* Дзеражна Касцюк. *Прыдаў я кыня і вярнуў грошы, што сам зыплаціў, і ішчэ прыбытку рублёў пяць.* Ушакі Чэрык. *Дай мне грошы, я ўдруг табе вярну.* Палуж Краснап. 2. Адварочваць. *Мяне што-та пачынаець вярнуць, каб ня вырвала.* Касцюковічы. 3. Кіраваць. *Сярдзіт Пынаська ў дарозі: ‖ Верніць коніка к бярёзі.* З нар. песні, М. Г. 22.

ВЯРО́ВЫЧНЫЙ, *прым.* Вяровачны, зроблены з вяроўкі. *У мяне вяровычныя атосы, а ў яго зялезныя, дык як учапіліся, дык мае і пыляцелі.* Пухнава Раснян.

ВЯРО́ЎКА, -і, *ж.* Вяроўка. *Круці туга, і вяроўка будзе крута.* Крычаў. *Закладзі там, сынку, вяроўку.* Новыя Капачы Мсцісл.

ВЯРСТА́, -ы, *ж.* Вярста. *Ён дэбыя, дык за вярсту чутна.* Хвёдараўка Краснап. *Ды Мсьціслаўля тры вярсты.* Баброва Мсцісл.

ВЯРТЛЮГ, -а, *м.* Невялікае бярэмца сена. *Узяў у дарогу вяртлюг сена, думыў хопя, аж мала будзя.* Хвёдараўка Краснап.

ВЯРТУ́Н, -а, *м.* Вяртун, вяртлявы чалавек. *Ета вяртун нейкі, а ні дзіцёнык.* Палуж Краснап.

ВЯРХО́ЎЯ, -я, *н. зборн.* 1. Вярхі дрэў. *Далі на дровы вярхоўя, дык і таго з-зы грязі нельга вывізьць зь лесу.* Хвёдараўка Краснап. 2. Горшы гатунак ільнянога валакна. *Ета вярхоўя, ета сярёдкі, а ета кужаліна.* Горкі Краснап.

ВЯРХУ́ШКА, -і, *ж.* Вяршыня дрэва. *Добрыя ўсе пызабіралі, адны вярхушкі зысталіся.* Машавая Бялынкав.

ВЯРЦЁЛКА, -і, *ж.* Рыба, мінога рачная. *Вярцёлку нялёхка спыймаць.* Хвёдараўка Краснап.

ВЯРШО́К, -шка, *м.* 1. Смятана ў збанку малака. *Зьнімі з гырлыча вяршок.* Касцюковічы. *Вяршок у мылаку зацьвіў.* Рэкта Раснян. 2. Вяршок, мерка даўжыні. *Купіў сабе дуб ны штандары ў хату — дзьвінаццыць вяршкоў тыўшчыні.* Сохана Мсцісл.

ВЯРШЫ́НА, -ы, *ж.* Смятана. *З гэтай пыстыялкі мала вяршыны.* Беразяк Краснап. *Дай мне блін з вяршыный.* Лапаціна Мсцісл. *Макай бліны ў вяршыну.* Гібалы Касцюк. *Маці, дай вяршыны ды бліноў.* Роськаў Хоцім.

ВЯРЬХО́М, *прысл.* Вярхом, конна. *Я ехыў вярьхом ны кані, раней конь ішоў ціха, а тады калі пыляціць наўскыч, дык я чуць-чуць задзержыўся.* Слаўнае Мсцісл.

ВЯСЁЛА, *прысл.* Весела. *У нас сяньні вясёла: пазьехылыся пасьці ўся рыдня.* Пірагова Мсцісл. *Хлопцы з дзеўкамі вясёла жыртувалі і сьмяяліся.* Сохана Мсцісл.

ВЯСЁЛКА, -і, *ж.* 1. Вясёлка, радуга. *Палянь на неба — вясёлка стаіць, гэста ны пагоду.* Ушакі Чэрык. *Дождж ідзе, і вясёлка ваду бярэ — значыць, нянасьце будзіць.* Касцюковічы. 2. Грыб-пагнойнік. *А йдзе быў гной, там вясёлкі растуць: белый, як яйцо, грыб, а ў сярэдзіне склізь.* Хвёдараўка Краснап.

ВЯСЁЛЫЙ, *прым.* Вясёлы. *Нешта ты надта вясёлы, глядзі, каб ні плакыў пысьля.* Тульдава Раснян. *Персьцень — вясёлыя гульня.* Шарэйкі Касцюк. *Часым скушна бываіць і ў вясёлый кымпаніі.* Лешчынка Мсцісл.

ВЯСЁЛЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Весялосць. *Што йта вясёлысьць ны цябе ныйшла сяньні, глядзі, штоб ні плакыць.* Б. Хутары Краснап.

ВЯСЁЛЫЧКА, -а, *н.* Памянш. ад вясло. *Зы чавён плачу я сто рублёў,* || *Зы вясёлычку ажну тысічу.* З нар. песні, М. Г. 114.

ВЯСЕ́ЛЬЛЯ, -я, *н.* Вяселле. *У Пынаса сяньня вясельля: дачку замуж атдаець.* Чыгрынаўка Раснян. *Калі ж, сват, будзім вясельля гуляць?* Дубеец Касцюк. *Ны вясельлі хлопцы скыкалі.* Прыпёчына Краснап. *Я пайду ны вясельля.* Крычаў.

ВЯСЕ́ЛЬЦА, -а, *н.* Памянш. ад вясло. *Рятуй, рятуй, мыя міла, калі верна любіла!* || *Каб чавёнчык ды вясельца рітувала б, маё серца.* З нар. песні. Зарэчча Мсцісл.

ВЯСЕ́НЬНІЙ, *прым.* Вясенні, веснавы. *Маріц яшчэ нялэўны вясеньні месіц, кажуць: «Маріц укусіць за паліц».* Гібалы Касцюк.

ВЯСКО́ВЫЙ, *прым.* Вясковы, што жыве ў вёсцы. *Ета ж вясковы ныстаўнік, ці ты ні бачыш?* Сохана Мсцісл.

ВЯ́СЛА, -а, *н.* Вясло, звязак нанізаных абаранкаў. *Купі мне вясла бублікыў.* Слаўнае Мсцісл.

ВЯСЛО́, -а, *н.* Вясло. *Вясло зlымалыся, дык ледзь да берыга даехыў: адносіць выда, хуць ты што.* Каробчына Мсцісл. *Трэба к вяслу зрабіць мылку.* Тур'я Чэрык.

ВЯСНА́, -ы, *ж.* Вясна. *Ны блыгавешчыньня дзеўкі і хлопцы, а часым і мыладзіцы ідуць, дзе высока, і гукаюць вясну. Гукаюць так: «Блыгыславі, божа, прячыстыя маці, вясну зыгукаці».* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ВЯСНО́Ю, *прысл.* Вясною, увесну. *Вясной цьвіцець кылыкалуша.* Тульдава Раснян. *Будзім вясною бярозавік піць.* Пірагова Мсцісл.

ВЯСТУ́Н, -а, *м.* Вястун. *Жавырынык — першы вястун вясны.* Янава Раснян. *Пріляцелі жавырынкі — вістуны вясны.* Слаўнае Мсцісл.

ВЯСЫ́, -оў, *мн. л.* Вагі. *Мяшок у пяць пудоў як хапіў упол, дык адразу ны вясы пыставіў.* Мсціслаў. *У нас вясоў німа, мы ны бязьмен зьвешыім, ён пыднімаіць да пуда.* Арцёмаўка Міласл.

ВЯСЬЦІ́, ве́сць, *дзеясл.* Весці. *Пьяныга пыд пашкі вядуць, а ён упінаіцца.* Сохана Мсцісл. *Вядзі ты раўней коні, ато бырызна выходзіць крывая.* Тульдава Раснян.

ВЯСЬЦІ́СЬ, ве́сца, *дзеясл.* 1. Весціся, быць. *Хлеб у нас вядзецца.* Горкі Краснап. 2. Весціся, паводзіцца, устанавіцца звычаю. *Так ужо ў нас вядзецца, і нечыга табе спорыць аб ётым.* Пірагова Мсцісл. 3. Весціся, добра гадавацца. *Ёзка добры пчыляр — у яго так добра пчолы вядуцца, а мёду ж колькі, ого!* Ушакі Чэрык.

ВЯТЛЮ́К, а, *м.* Маладзік, малады месяц. *Вятлюк схываўся зы хмарымі.* Віхраны Мсцісл.

ВЯТО́Х, -а, *м.* Ветах, месяц у апошняй квадры. *Пыдажджы, ня едзь зь вечыру — пыд раньня вятох засьвеціць.* Слаўнае Мсцісл. *Ужо пыкызаўся вятох.* Калініншчына. *Цяпер ночы відныя, бо вятох сьвеціць.* Касцюковічы.

ВЯТРА́К, -а, *м.* Вятрак, ветраны млын. *Яго ветрак добра меліць.* Нізкі Касцюк.

ВЯТУ́Х, -а, *м.* Ветах, месяц у апошняй квадры. *Вятух толькі а поўнычы ўзыйдзя.* Горна Краснап.

ВЯ́ХАЦЬ, *дзеясл.* Брахаць. *Ах, каб цябе ваўкі, дос вяхаць! Ну й сыбака.* Ушакі Чэрык.

ВЯХО́ТКА, -і, *ж.* Вяхотка, анучка або мачалка, чым мыюць гаршкі. *Міскі пушурувала вяхоткый.* Палуж Краснап. *Твыя ўжо сарочка ўся пырвалась, толькі ны вяхотку.* Добрае Мсцісл. *Пыдай вяхотку гаршчок пышырувать.* Краснаполле.

ВЯХРА́НЕЦ, -нца, *м.* Нячысцік. *Куды ты пабег, вяхранец?* Паўлавічы Клім.

ВЯ́ХЫЦЬ, *дзеясл.* Брахаць. *Сыбака вяхыя, зайца гоня.* Брылёўка Краснап.

ВЯЦЬВІ́СТЫЙ, *прым.* Галінасты. *Ны гародзе ў нас стаіць вяцьвістыя бяроза.* Пірагова Мсцісл. *Дубок мыладэй, а які вяцьвістый.* Высокі Бор Краснап.

ВЯЦЬВІ́ЦЦА, *дзеясл.* Галініцца, распускаць гальлё. *Прыгожа ў садзе: трыва, краскі, над імі — кусты парэчкі, а над імі віцьвяцца яблыні і сьліўкі.* Пірагова Мсцісл. *Пришчапіў вісною яблыньку, і глядзі — вяцьвіцца ўжу.* Б. Хутары Краснап.

ВЯЧО́РКА, -і, *ж.* 1. Вячэрняя зорка. *Пы вечарох вячорка стала ярка сьвяціць — ня йначай выйна будзе.* Барысавічы Клім. 2. Вечарынка. *Дзеўкі і хлопцы сыбралісь ны вячорку.* Палуж Краснап. *А ў вас ны вячоркі будуць скымарохі?* Мсціслаў. *Пойдзім, хлопцы, ны вячоркі.* Карабанава Касцюк.

ВЯЧО́РЫК, -а, *м.* Вечарынка. *Прыходзь ды нас ны вячорык.* Добрае Мсцісл.

ВЯЧЭ́РА, -ы, *ж.* Вячэра. *Ідзіце, дзеці, есьці, ато вячэра прастыніць.* Прусіна Касцюк. *Пысьля вячэрі пычалісь скокі — скымарох іграў на скріпкі.* Арцёмаўка Міласл.

*Сёньня ў нас ны вячэру будуць калдуны.* Тур'е Чэрык.

ВЯЧЭ́РАЦЬ, *дзеясл.* Вячэраць. *Я сёньня ў брата вячэраў.* Чыгрынаўка Раснян. *Сядайця за стол, будзем вячэраць.* Вярбоўка Раснян. *Ідзіце, дзеці, вячэраць, ды спаць трэба класьціся.* Касцюковічы. *Нада пыгадзіць, можа яшчэ бацька пад'едзіць, тады ўмесьці будзім вячэраць.* Арцёмаўка Міласл. *Пара ўжо вячэріць.* Лапаціна Мсцісл. *Дзеці, пыра вячэрыць.* Хоцімск.

ВЯЧЭ́РНІЙ, *прым.* Вячэрні. *Вячэрні час хутка йдзе.* Чыгрынаўка Раснян. *Ужо зышла вячэрнія зыря.* Вербеж Чэрык. *Вячэрнім часым ета зьдзелыіш.* Гусарка Клім.

ВЯЧЭ́РНЯ, -і, *ж.* Вячэрня, вячэрняя служба, набажэнства. *Ны вячэрню ўжо звонюць, а мы йшчэ ні ўхадзіліся.* Машавая Бялынкав.

ВЯШЧУВА́НЬНЯ, -я, *н.* Прараканне, прадказванне. *Ня слухай ты яго вяшчуваньня — усё абыйдзіцца добра.* Ушакі Чэрык.

# Г

ГА, *часц.* Га. *Ці ты пойдзеш са мной у лес сяньня, ці не, га?* Пацкава Мсцісл. *Што ты робіш, на што ты яе б'еш, га?* Усполле Раснян.

ГАВАРІ́ЦЬ, *дзеясл.* Гаварыць. *Ты і сыма ні знаеш, што гаворіш.* Лешчынка Мсцісл. *Дзед гаворіць, што сам зьдзелыў піпку, а ета ніпраўда — ён купіў.* Арцёмаўка Міласл. *Верціцца кыля ды вокыла, а самый сутнасьці дзела ні гаворіць.* Бяседавічы Хоцім.

ГАВАРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Гаварыць. *Усі заразі ні гаварыце.* Мсціслаў.

ГАВЕ́ЙНІК, -а, *м.* Вяз, звязка галовак палазоў у санях. *Мне трэба засеч тры гавейнікі длі пылазоў.* Ташна Клім.

ГАВЕ́НЬДЗІЦЬ, *дзеясл.* Размаўляць, траціць час у пустых размовах. *Некылі мне с табою гавеньдзіць.* Кокатава Мсцісл.

ГАВО́РКА, -і, *ж.* 1. Вымаўленне, гутарка. *У яе гаворка трошкі кыртавыя.* Пірагова Мсцісл. *Яго гаворкі ні рызьбярэш: шамыя нешта, а што, дык хто яго ведаіць.* Усполле Раснян. 2. Гаворка, разгавор. *Аклуміў ты маю галовычку сваімі гаворкымі.* Парадзіна Мсцісл. 3. Погаласка. *Ужо твае ягоднікі надзелылі гаворкі.* Багацькаўка Мсцісл. *Ета ні правільныя гаворка, а праздводка толькі.* Палуж Краснап.

ГАВО́РЫЦЬ, *дзеясл.* Гаварыць. *Міхась з намі і гаворіць ні хочыць.* Ушакі Чэрык.

ГАВЭ́НДЫ, -аў, *мн. л.* Пустыя размовы [непатрэбная гаворка]. *Рызьвядзе гавэнды, а яны слухаюць, разьзявіўшы рот.* Усполле Раснян.

ГАГЫЛЬ, -я, *м.* Нячысцік, нячыстая сіла. *Якей-та гагыль нываліўся ны маю гылаву.* Хвёдараўка Краснап.

ГА́ГЫЦЬ, *дзеясл.* Гагаць. *Чуіш, як гусі гагыюць, знаць, рады, што ліцяць у цёплый край.* Васілёўка Хоцім.

ГАД, -а, *м.* Гад, дрэнны чалавек. *Ён, гад, гатоў пасьледній кусок з рота вырваць.* Арцёмаўка Міласл. *Гэта ж ні чылавек, а гад нейкі.* Ушакі Чэрык.

ГАДЗІ́НА, -ы, *ж.* Гадзіна. *Гадзіна таму нызад, як я спыткаў Васіля з Ганный — ішлі пы нашый вуліцы.* Мсціслаў. *Цягнік прышоў у пяць гадзін раніцы.* Кажамякіна Крыч. *Зьвінчаў дзетычак у добры час, || А ў шчасьлівую гадзіну.* З нар. песні.

ГАДЗІ́НЬНІК, -а, *м.* Гадзіннік. *Ны маім гадзіньніку ўжу пулавіна дзісятый.* Аляксандраўка Краснап.

ГАДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Гадзіцца. *Абапылык роўнінькі, куды хош гадзіцца, за дошку сайдзець.* Мсціслаў. *Етый кій нікуды ні гадзіцца, ён кароткій.* Бяседавічы Хоцім.

ГАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Дагаджаць. *Ёй ніякій чорт ня ўгодзіць, а я ж гадзіла.* Гарбавічы Касцюк. *Я табе гаджу, як тэй ліхей скуле.* Іванаўка Хоцім. *Суботухна нядзелюхне гадзіла, || Сыбрылася Мыланкіна радзіма.* З нар. песні. Большая Багацькаўка Мсцісл.

ГАДКА, -і, *ж.* 1. Думка, выказаная наперад, здагадка. *Твыя гадка збылась — уцёк ужо гэсты разбойнік з турмы.* Ушакі Чэрык. 2. Турботная думка. *Яму што? Жывець сабе і ні гадкі.* Палуж Краснап.

ГАДКІЙ, *прым.* Гадкі, дрэнны. *Гадкій маліц. Гадкыя дзяўчына.* Хоцімск.

ГАДУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Гадавацца, расці. *Я купіў сабе трускоў пару ны развод, хай гадуюцца.* Пірагова Мсцісл. *Етый ягнёнык з чорный авечкі, яго резыць ні нада, ніхай гадуіцца.* Арцёмаўка Міласл. *Як ныpадзілыся, дык будзе й гадувацца.* Дзіснакіта Мсцісл.

ГАДУНЕ́Ц, -нца, *м.* Гадаванец, узяты чужымі за сына. *Ета мой гадунец, узяў сабе за сына.* Палуж Краснап.

ГАДЫНА, -ы, *ж.* Гадзіна, вужака. *Хлопцы гадыну забілі. Гадына ты, а ня дзеўка — злісься німа ведыма чаго.* Хвёдараўка Краснап.

ГАДЫ́ Ў РАДЫ́. Вельмі рэдка. *Зь сястрою мы гады ў рады пыбачымся калі.* Гусарка Клім. *Пысядзі трохі, ато гады ў рады калі зыглянець, і то пыбяжыць, як агню ўхапіўшы.* Вербеж Чэрык.

ГАЁК, гайка́, *м.* Памянш. ад гай. *Пы дарозе будзіць гаёк нівяліччкей, а за тым гайком дарога рыздваівыіцца, дык ты ідзі ўправа.* Белы Мох Мсцісл.

ГАЁЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад гаёк. *Кызачынька пшанічыньку сеіць, || Марусінька пы гаёчку ходзіць.* З нар. песні.

ГА́ЗА, -ы, *ж.* Газа. *Бяжы ў кыпіряцій, купі газы, бо ня будзіць чаго зыпаліць.* Гусарка Клім. *Няма газы ў лямпе, і гарыць кнот.* Краснаполле.

ГАЗЬНІЦА, -ы, *ж.* Маленькая лямпа без шкла. *Зыпалі газьніцу, ато ў лямпе газы шмат гарыць.* Азерцы Клім.

ГАЗЭ́ТА, -ы, *ж.* Газета. *Дай ты мне газэту на цыгаркі.* Вітрунь Касцюк. *Гэтый роспуск [развод] ужо абгылашон у газэце.*

Пірагова Мсцісл. *У газэці пішуць, што лятун разбіўся.* Маластоўка Краснап.

ГАЙ, -я, -ю, *м.* Гай. *Пысьля дажджу пыйдзем у гай у грыбы.* Журбін Бялынкав. *А з-пыд гаю, гаю вецір веіць, ‖ Кызачынька пшанічыньку сеіць.* З нар. песні.

ГАЙНО́, -а, *н.* Бярлога, логава. *Прінясі саломы сьвіньням, ніхай гайно сабе здзелыюць.* Брылёўка Краснап.

ГАК, -у, *м.* Лішка, прыбаўка (ужываецца толькі з прыназоўнікам). *Ад Амсьціслаўля да Пірагова вёрст дзевіць із гакым будзіць.* Пірагова Мсцісл. *Ды будзя тры вярсты з гакым, а біз гаку вярстоў з пяток.* Палуж Краснап. *Прайшоў вёрст пяць з гакым.* Паходавічы Чэрык. *Да Мыластоўкі будзіць пяць вёрст з гакым.* Хвёдараўка Краснап.

ГА́КЫЦЬ, *дзеясл.* Гакаць. *Гакнуў тыпаром у бярэзіну, дык сок і пырснуў.* Хвёдараўка Краснап.

ГАЛ, -у, *м.* Прагаліна ў лесе. *Прыгожый гал у лесі.* Палуж Краснап. *Вышлі мы з лесу ны гал, аж там заіць скачыць; я прыцэліўся ды бухнуў, дык на месьці й пылажыў.* Журбін Бялынкав.

ГАЛЁЗУХІ, -аў, *мн. л.* Саромныя часткі цела. *Схувай свае галёзухі.* Хвёдараўка Краснап.

ГАЛЁНКА, -і, *ж.* Голень, частка нагі ад калена да ступы. *Выціўся галёнкый аб брыж.* Зоры Чэрык.

ГАЛЁНЫ, -аў, *мн, л.* Шнур з блішчастымі ніткамі залатога колеру. *Ныбрала сукна, купіла галёнаў і пашыла сабе сыян, а андрак ня носіць.* Юркаўка Крыч. *У нашыга пупа різа абшыта ўнізу ўся чысцінька бліскучымі галёнымі.* Слаўнае Мсцісл. *На спадніцу бліскучыя галёны нашыла.* Қасцюшкавічы Крыч.

ГАЛЁНЬ, гальня, *м.* Венік, якім мятуць хату [змецены венік, дзяркач]. *Увесь гален рассыпыўся, і хату нечым падмесьці.* Усполле Раснян. *Трэба галень у печы спаліць, каб мароз ня быў.* Хвёдараўка Краснап. *Вазьмі гален і пыдмяці хату.* Азерцы Клім.

ГАЛЁЦЬ, *дзеясл.* Бяднець. *Стаў галець ён з тых пор, як пыгарэў.* Добрае Мсцісл. *Спычатку конь нагу злымаў, а тады мядзьведзь карову зыдраў, а далей, як пышло, дык не адно, то другоя, згалеў саўсім чылавек.* Юркаўка Крыч.

ГАЛІ́К, -а, *м.* Гаплік. *Зашпілі галік.* Хвёдараўка Краснап.

ГАЛІ́НА, -ы, *ж.* Галіна, ветка дзерава. *Атламі галіну і пыдгані кыня.* Дубеец Қасцюк. *У яблыні вецір галіну злымаў.* Зоры Чэрык.

ГАЛІХВЭ́, *н.* Галіфе. *Пашыў сабе новыя галіхве.* Хоцімск.

ГАЛІ́ЦА, -ы, *ж. заал.* Галка. *На пуні сядзела галіца.* Гібалы Қасцюк.

ГАЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Галіцца [быць ахвочым], зайздросціць. *Ня бойсь, ні ўкрадуць — хто ны такоя дабро пыгаліцца?* Парадзіна Мсцісл. *Ні нада галіцца многа зьдзелыць: луччы мала, ды хырашо.* Арцёмаўка Мілася. *Ні гальсся ны чужое.* Гібалы Қасцюк.

ГА́ЛКА, -і, *ж. заал.* Галка. *Ён ні 'тлічыць, што галка, што варона.* Арцёмаўка Мілася. *Чорныя галкі сядзелі ны сьнягу.* Пірагова Мсцісл. *Бачыш, ляціць некыя птушка — ні то варона, ні то галка.* Ушакі Чэрык.

ГАЛО́ВУХНА, -ы, *ж.* Галава. *Галовухна мыя бедныя, а што ж я рабіць буду!* Зоры Чэрык. *Прыпала мыя галовухна!* Гусарка Клім.

ГАЛО́ВЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад галава. *Ныкысаўся ны маю галовычку.* Палуж Краснап. *Выній кызача свой войстрый меч, ‖ Зьняў Марусі галовычку з плеч.* З нар. песні.

ГАЛО́ДНЫЙ, *прым.* Галодны. *Затручыный пырасёнык кладзецца ў лясу, а галодный воўк як зьесьць, так і здохніць.* Бяседавічы Хоцім. *Калі німа варыва, дык я галодна.* Галоўчыцы Клім. *Нашы сьвіньні ўсё паелі і галодныя — крычаць.* Слаўнае Мсцісл.

ГАЛО́П, -у, *м.* Галоп, конскі бег. *Конь шпарыць галопым.* Слаўнае Мсцісл. *Вырвасюга етый ніколі ня едзіць паціху, а ўсё галопым.* Юркаўка Крыч.

ГАЛО́СКА, -і, *ж.* Рэха. *Як крыкнуў, дык аж галоска пышла па лесе.* Қасцюшкавічы Крыч.

ГАЛО́ТА, -ы, *ж.* Галота, беднасць. *Азяліла мяне гэта галота — куды хош дзівайсь.* Добрае Мсцісл.

ГАЛО́ЎКА, -і, *ж.* Памянш. ад галава. *Галоўка мыя бедныя, нішчасныя!* Қасцюшкавічы Крыч. *Зыпрыпала галоўка мыя, зыпрагінула!* Брылёўка Краснап. *Нахілі сваю галоўку.* Васілёўка Хоцім. *Ды галоўка мыя ў вянку, ‖ Німа майго татухны ў дамку!* З нар. песні. Зарэчча Мсцісл.

ГАЛУ́Б, -а, *м.* Голуб. *Галуб пылітаў, пылітаў і сеў ны стряху.* Лешчынка Мсцісл.

ГАЛУБЕ́Ц, -бца, *м.* Голуб. *Ны страхе сядзіць галубец і варкуіць.* Лешчынка Мсцісл. *Янка пыставіў ны галубцоў сільлё.* Дубоўка Аршаншчына. *Галубцы пасьцёрлі ўсю крышу.* Новыя Қапачы Мсцісл.

ГАЛУБІ́ЦА, -ы, *ж. бат.* Галубіца, дурніца, чорная ягада. *Зося, пойдзем сяньні ў галубіцы.* Барысавічы Клім. *Іна ныбярэць галубіцы і ны станцыі прыдаець зы чарніцы.* Зоры Чэрык.

ГАЛУ́БКА, -і, *ж.* 1. Галубка, самка голуба. *Галубка ўжу ны яйцых села.* Стары Дзедзін Мілася. *Ні хацелыся галубцы ‖ Кыла голуба сядзець.* З нар. песні, М. Г. 29. 2. Галубка, ласкальны зварот да жанчыны. *Улі, галубка, варыва — я галодзін.* Лютня Краснап. *А мыя ж ты таічка, мыя галубка, і што толькі людзі ні гаворюць.* Азерцы Клім.

ГАЛУ́БНІК, -а, *м.* Пярэдняя частка хаты. *У галубніку стыяла бочка.* Тур'е Чэрык.

ГАЛУ́БЧЫК, -а, *м.* 1. Памянш. ад голуб. *Пріляцеў галубчык ды галубычкі, селі сабе ны стряхе і варкуюць.* Большая Багацькаўка Мсцісл. 2. Галубчык, іранічны зварот да вінаватага ў чым-небудзь. *Ага! Пыпаўсь, галубчык.* Зоры Чэрык.

ГАЛУ́БЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад галубка. *Б'юцца, дзяруцца ды два голубы ‖ Зы галубычку.* З нар. песні, М. Г. 72.

ГАЛУ́ЗА, -ы, *м.* і *ж.* Жэўжык, балаўнік. *Такей жа галуза, што нідзе пакою яму*

*німа.* Бяседавічы Хоцім. *Ну і мальчышка ж, ныстыяшчыя галуза: і круціцца, і верцiцца — ні мінуткі ні пысядзіць.* Добрае Мсцісл.

ГАЛЫ́, -ыў, *мн. л.* Лыткі. *Ён уцікаіць, а сыбака за ім, ды яго зы галы.* Бяседавічы Хоцім.

ГАЛЫ́ТЫР, -а, *м.* Голы, бедны. *Што ты зь етыга галытыра возьмеш — ён жа нічога ні маіць.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ГА́ЛЫЧКА, -і, *ж.* 1. Галачка, галушка. *Ныварыла матка галычак з мылаком, з пшэннай мукі.* Пірагова Мсцісл. *Дай мне, мама, цёплыю галычку бульбы.* Канічы Касцюк. 2. *заал.* Галка. *Пыляцелі галычкі.* Высокі Бор Краснап. 3. Круглая грудачка зямлі ці круглы камень. *Нызьбіраў дзіцёнык галычык і бавіцца.* Б. Хутары Краснап.

ГАЛЫ́Ш, -а, *м.* Галыш, абадранец. *Галыш ты, будзіш ішчэ са мной спорыцца.* Хвёдараўка Краснап.

ГАЛЬЛЁ, -я, *н. збор.* Гальлё. *У бярозках усе гальлё на веніку пылымалі.* Добрае Мсцісл.

ГАЛЬНІ́К, -а, *м.* Стары, змецены венік, дзяркач. *Дрэнна пыдмітаць падлогу гальнікам.* Лапаціна Мсцісл. *Нышаруй пыдлогу гальнікам, ато дужа ўжо іна брудныя.* Ганнаўка Клім.

ГАМ, -у, *м.* Гам, шум ад разгавору. *У хаці пыднялі такі гам, што хуць вушы зытыкай.* Усполле Расня.

ГАМЕ́Н, -а, *м.* Бязмен. *Зьбегый-тка пазыч гамен — зважыць хлеб.* Маластоўка Краснап.

ГАМЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Рабіць неакуратна. *Ні гамзі дужа спычатку грошы, прібірігай.* Куркаўшчына Мсцісл.

ГАМО́НКА, -і, *ж.* Гамонка, разгавор. *Зьмітро ў вас? Я, здаецца, чуў яго гамонку.* Паўлавічы Клім. *Замест гамонкі яна пычыла сапці ў адказ.* Пірагова Мсцісл.

ГАМУ́ЛА, -ы, *ж.* Клёцкі з бульбы з салам. *Гамулы наеўсь, аж жывот трашчыць.* Маластоўка Краснап.

ГАНЕ́Ц, -нца́, *м.* Ганец, пасланец у спешнай справе. *Вірхак-ганец пріехыў з акругі.* Краснаполле.

ГА́НІЦЬ, *дзеясл.* Ганіць. *Німа чаго табе яе ганіць — і ты б ня лепі зы яе была б.* Старае Сяло Мсцісл. *Ён хацеў жыніха адбіць, дык як пычаў ныгыварівыць ны яе ды ганіць — чаго толькі ні ныгываріў: і няўмека, і лянівыя, і бедныя.* Арцёмаўка Міласл. *Гывары ён пры яе біз усякай выгрозы: ні ганіў і ні хваліў.* Ушакі Чэрык.

ГА́НКІ, -нык, -ыў, *мн. л.* Ганак. *Дзядзька ўзышоў ны ганкі.* Тульдава Расня. *У маёй хаці паломыны ганкі.* Кокатава Мсцісл. *Нашы ганкі пылымаліс.* Крычаў. *Кучыр пыдвярнуў кыня к ганкым.* Тур'е Краснап. *Хата ў іх была старая ўжо, біз сінец і біз ганык.* Ушакі Чэрык. *К сенцам зьдзелылі новыя ганкі.* Канава I Касцюк. *Хлопцы сыбраліс ны ганкі і стыяць.* Шумячы.

ГАНЧУ́РКА, -і, *ж.* Анучка, якою бяруць гарачыя гаршкі, каб рук не апячы. *Вазьмі ганчурку ды адстаў гаршчок ад полымя.* Усцінавічы Краснап. *Ганчурка вон, кыля печы ляжыць, вазьмі, бо рукі апячэш.* Малютын Краснап. *Бяры чугун ганчуркый.* Зоры Чэрык.

ГА́НЫК, -нка, *м.* Ганак. *На ганку сядзела жанчына і шыла.* Машавая Бялынкав. *І ў сенцах, і ны ганку было поўна людзей.* Сідараўка Клім. *А йдзі, коця, ны ганык, ‖ Прінясі Арінцы быраник.* З нар. песні. Багацькаўка Мсцісл.

ГА́НЫЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад ганык. *Іна верна служыла, сы церіма ды ні выхадзіла, ‖ Толькі раз была выйшла, ны ганычкых пыстыяла.* З нар. песні, М. Г. 28.

ГАПЛІ́К, -а, *м.* Гаплік, кручок, што прышываецца замест гузікаў. *У куўняры вырвыўся гаплік, а цяпер так во рысьцягнутый хаджу.* Слаўнае Мсцісл. *Прышый мне гаплік.* Тур'е Чэрык. *У спадніцу гаплік нада ўшыць.* Азерцы Клім. *Зашпілі гаплік.* Камароўка Крыч. *Наста ўшыла ў кохту гаплік.* Малюшын Краснап.

ГАПЛІ́ЧКА, -і, *ж.* Драцяная пяцелька, за якую зашпіляецца гаплік. *Гаплік ё, а гаплічка вырвалась.* Куляшоўка Клім.

ГАПЛІЧО́К, -чка, *м.* Памянш. ад гаплік. *Чуць сенньні сорыму я ні ныбралысь — вырваўсь гаплічок з спадніцы.* Ушакі Чэрык.

ГАПЛЮ́К, -а, *м.* 1. Гаплік. *Прышый гаплюк, ато нечым засьцягывыцца.* Бяліпчына Мсцісл. *Ушый мне ў кохту гаплюк.* Хоцімск. 2. Малы, невялікага росту чалавек. *Нейкі гаплюк у канцылярыі сядзіць і скрыпыя пяром.* Хвёдараўка Краснап.

ГАРА́ЧЫЙ, *прым.* Гарачы. *Ты вазьмі гаршчок аберуч, ато ні дынясеш, гарач.* Пірагова Мсцісл.

ГАРБА́Р, -а, *м.* Шавец. *Гарбар пашыў чыравікі.* Шумячы.

ГАРБА́ТА, -ы, *ж.* Гарбата, чай. *Гарбаты ня нашаму брату купіць.* Тульдава Расня. *Я п'ю гарбату з цукрам.* Шумячы.

ГАРБІ́НА, -ы, *ж.* Воз, прыстасаваны вазіць снапы або сена. *Зьдзелыў сабе гарбіну снапы вазіць.* Хвёдараўка Краснап. *Ладныя ў цябе гарбінка: легкыя і ўмесныя.* Вербеж Чэрык.

ГАРБУ́З, -а, *м. бат.* Гарбуз. *Які вялікі гарбуз вырыс.* Хоцімск. *Націна гырбуза абвіла і спутыла націну бульбы.* Слаўнае Мсцісл. *Сёліта ўжо і я нысаджу гарбузоў.* Буліна Калінінінчына.

ГАРБУ́Н, -а, *м.* Гарбун, чалавек з гарбом, гарбаты. *Па вуліцы гарбун нейкі пайшоў.* Палуж Краснап.

ГАРДЗІ́НА, -ы, *ж.* Карціна, малюнак. *Ны сьцяне вісіць гардзіна.* Шумячы.

ГАРДУНІ́ЦА, -ы, *ж.* Жанчына, што ганарыцца, гардзіцца, ганарлівая. *О, яна гардуніца, ёй слова ні скажы!* Горы Краснап.

ГАРЭ́ЛКА, -і, *ж.* Гарэлка. *Ета ні гарелка, а знаць ныстыяшчый сьпірт, нешта ўжу дужа крепка.* Арцёмаўка Міласл.

ГАРЭ́ЛЫЙ, *прым.* Гарэлы. *Ета гарелый лес, тут быў пыжар улетку.* Прусіна Касцюк.

ГАРЭ́ЛЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад гарэлка. *Пастроілі высачэнный бровыр, скора пычануць там гнаць гарелычку.* Слаўнае Мсцісл.

ГАРЭ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Гарэць. *Бярёстыю хырашо печку пыдтыплівыць, лучшы лучыны гаріць.* Арцёмаўка Міласл. *Кыла лесу гаріць цяпло.* Гарбавічы Касцюк. 2. Хутка

рабіцца. *Ён жа такей работнік, што ні возьміць дзелыць, дык у руках гаріць.* Арцёмаўка Міласл. 3. Чырванець. *Яму было стыдна, аж шчокі гарелі і вушы красныя былі, як буракі.* Арцёмаўка Міласл.

ГАРІДА, -ы, *ж.* Дрэнь. *Гаріда ты, што ты мне сьвінвю пыдкладывыіш!* Слаўнае Мсцісл.

ГАРКАЎКА, -і, *ж. бат.* Гаркаўка. *Гаркаўка цьвіцець жоўтым цьветам. Калі сырваць яе — унізе выступаець горкае малако.* Пірагова Мсцісл.

ГАРКУША, -ы, *ж.* Яблыня з горкімі яблыкамі. *Есьць у нас гаркуша, ну й многа ж на ёй сёліта яблык.* Хвёдараўка Міласл.

ГАРКЫВАЦЬ, *дзеясл.* Варкаваць. *Яны ночку гаркывалі, пы-нашыму гыварылі.* Студзянец Касцюк.

ГАРЛАЧ, -а, *м.* Збанок. *Ён п'е з гарлача.* Хоцімск.

ГАРМІДЫР, -а, *м.* Гармідар. *Такей гармідыр пыднялі, што хуць вушы затыкай.* Юркаўка Крыч. *Учынікі ны піряменцы пыднялі ныстыяшчый гармідыр.* Слаўнае Мсцісл.

ГАРМОНЬ, -і, *ж.* Гармонь, музычны інструмент. *Ны свадзьбе ігралі скрыпка, гармонь і бубін.* Пірагова Мсцісл. *Лядзі, ні папорці пішчыкі ў гармоні.* Горкі Краснап. *Бычкі ў лычкі йграюць, ‖ А цёлкі ў сьвісьцёлкі, ‖ А быраны ў ырганы, ‖ А коні ў гармоні.* З нар. песні.

ГАРНА, *прысл.* Добра. *Дзела будзе гарна.* Хоцімск.

ГАРНЕЦ, -рца, *м.* Гарнец, мера сыпкага. *Пазычця мне гарцы два круп ды наві.* Пірагова Мсцісл.

ГАРНУЦЬ, *дзеясл.* Прыварочваць. *Гарнула я яго к сабе ўсякімі зельлямі — ні пымагло, усіроўна ні любіць.* Ушакі Чэрык. *Ты нам не радзеіш, а ўсё к свайму боку горніш.* Гібалы Касцюк.

ГАРНУШЫК, -шка, *м.* Гарнушак, маленькі гаршчэчак. *Мама зварыла кашу ў гарнушку.* Глінь Касцюк. *Купі невялікій гарнушык з ручкый: у ягыды хадзіць.* Слаўнае Мсцісл.

ГАРОД, -а і -у, *м.* Гарод, агарод. *Як у вас сёліта гарод, пасеялі ўжо каноплі ці не?* Новыя Капачы Мсцісл. *Іван абгырадзіў свой гарод пряслым.* Гарбавічы Касцюк. *Міколка і Наста забеглі ў гарод і ныбралі пыстаньня гуркоў.* Лапаціна Мсцісл.

ГАРОДНІК, -а, *м.* Гароднік, агароднік. *Янкіль раньшы быў гароднікым.* Палуж Краснап.

ГАРОДНЫЙ, *прым.* Гародны, прыналежны гароду, агародны. *Каноплі бяруць позна восеньню, тады ж, калі кыпаюць бульбу; гэта — дзве апошнія гародныя працы.* Пірагова Мсцісл.

ГАРОХ, -у, *м.* Гарох. *Ці ёсьць гэта ў нас у клеці гарох, ці ўвесь ужо?* Новыя Капачы Мсцісл. *Ны гароху буваіць разный цьвяток: і беленькій, і красненькій.* Арцёмаўка Міласл. *Міхась узяў у кішэню хлеба і жмені тры гароху.* Лапаціна Мсцісл.

ГАРОХЫВЫЙ, *прым.* Гарохавы. *Чаго ты стаіш, як пудзіла гарохывыя?* Маластоўка Краснап.

ГАРОХЫЎЯ, -я, *н.* 1. Гарохавая салома. *Пылажы гарохыўя ў калёсы.* Машавая Бялынкав. 2. Месца на полі, дзе быў гарох, гарохавае іржышча. *Ны гарохыўі я ныз6ібраў жменю гароху.* Камароўка Крыч.

ГАРОШЫК-МЫШШАК, *бат.* Мышыны гарошак. *У жыце многа гарошку-мышшаку.* Брылёўка Краснап.

ГАРОШЫНА, -ы, *ж.* Гарошына, адно каліва гароху. *Із гарца гарошын я колькі прасыпыла, дык ужо біда.* Пірагова Мсцісл.

ГАРТ, -у, *м.* Гарт. *Гарт у касе дужа ўдайся.* Хвёдараўка Краснап.

ГАРТУВАНЬНЯ, -я, *н.* Гартаванне. *Гартуваньня плахоя — лямех сагнуўсь.* Высокі Бор Краснап.

ГАРТУВАЦЬ, *дзеясл.* Гартаваць, рабіць цьвёрдым. *Мы куім, гартуім, зялеза гатуім.* Хвёдараўка Краснап.

ГАРТЫВАНЫЙ, *прым.* Загартаваны. *Еты тапор добря гартыванэй.* Канічы Касцюк.

ГАРЦЫВАЦЬ, *дзеясл.* Гарцаваць. *А за ёю кызак, за ёй мыладый, ‖ Ны кані гарцуючы.* З нар. песні. М. Г. 97.

ГАРЧЫЦА, -ы, *ж.* Гарчыца. *У нас гарчыца кожны год сама родзіць ны гародзе.* Пірагова Мсцісл. *Гарчыца ўжо вытхнулася.* Пушкова Касцюк.

ГАРШКОЎНІК, -а, *м.* Ганчар. *Ны бызар ныехыла гаршкоўнікыў.* Хвёдараўка Краснап.

ГАРШКОЎНІЧЫЦЬ, *дзеясл.* Ганчарыць, рабіць гаршкі. *Раньшы гаршкоўнічыў, а січас ні магу — рукі ўжу ня тыя.* Маластоўка Краснап.

ГАРШЧОК, гыршка, *м.* Гаршчок. *Узіла малыя вілкі і абярнула гаршчок, вынімаўшы з печы.* Белы Камень Бялынкав. *У чалесьніку стаяць гаршкі.* Кокатава Мсцісл. *Ны бызарі сёньні што гаршкоў было — страх!* Мсціслаў.

ГАРШЧОЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад гаршчок. *Зварі, мама, сяньні гаршчочык кашы.* Зоры Крыч.

ГАРЫВАЦЬ, *дзеясл.* Гараваць. *От, жывём неяк, гаруім.* Багацькаўка Мсцісл.

ГАРЫНКА, -і, *ж.* Узгорак. *Палянь, якая роўнядзь — нідзе ні гарынкі, нічагуткі!* Ушакі Чэрык.

ГАРЬКА, -і, *ж.* Выгар, месца, дзе выгараў торф. *Конь ходзя кыла гарькі.* Хвёдараўка Краснап.

ГАРЭЛКА, -і, *ж.* Гарэлка. *Новінькій шкалік разьбійся — нечым цяпер гарэлку піць.* Добрае Мсцісл. *Сьціпан здорыва гарэлку хлешча.* Палуж Краснап.

ГАРЭЛКІ, -лак, *мн. л.* Гарэлкі, гульня. *У гарэлкі гуляюць найбольш вясною, калі бегыць лёгка. Гарэлкі — вясёлая гульня.* Шарэйкі Касцюк.

ГАРЭЛЫЙ, *прым.* Гарэлы. *Гарэлый лес сякуць — будзіць дроў многа.* Паўлавічы Клім.

ГАРЭНІЦЬ, *дзеясл.* Гарэніць, аддаваць горкім смакам. *Капуста гарэніць, квас гарэніць.* Брылёўка Краснап.

ГАРЭЦЬ, *дзеясл.* Гарэць. *Дровы жарка гарэць у печы.* Машавая Бялынкав. *Пупраў*

*пупок у лямпі, ато дрэнна гарыць.* Палуж Краснап. *Нехта зыпаліў зём у балоці, і гарыць больш месяца.* Куляшоўка Клім. *Сырэя дровы біс паттопы ні гыряць.* Палуж Краснап.

ГАРЮ́ЧЫЙ, *прым.* Горкі (пра слёзы). *А йна белы рукі ломіць,|| Гарючыя сьлёзы роніць.* З нар. песні, М. Г. 143.

ГАРЮ́ША, -ы, *ж.* Гаротніца. *Гарюша іна — увесь свой век гарюіць.* Журбін Бялынкав. *Я, мылыда-гарюша, || Двору іці баюся.* З нар. песні, М. Г. 93.

ГАСІ́НЫК, -нка, *м.* Камаш. *Пашоў у гасінкых.* Хвёдараўка Краснап.

ГАСПЫДА́Р, -а, *м.* Гаспадар. *О, ён жа выславёны гаспыдар: калі хочыш завесьці добрых кароў ці сьвіней, дык к яму едзь.* Ушакі Чэрык. *Гаспыдар рупіцца, каб раней засеяць насеньня.* Лапаціна Мсцісл. *Гаспыдар павёз жыта на пруд.* Юшкавічы Раснян.

ГАСПЫДА́РКА, -і, *ж.* 1. Гаспадыня. *Гаспыдарка нацыркыла поўнае вядро пастыялкі* (малака). Бель Мсцісл. *Гаспыдарка распорыла рошвы і з етых нітак зьвізала панчохі.* Бель Мсцісл. 2. Гаспадарка. *У гаспыдарцы дужа быгата ўсілякія рупаты.* Ельня Краснап.

ГАСПЫДА́РЫНЯ, -і, *ж.* Гаспадыня. *Гаспыдарыня паніслá ў шайцы пойла.* Прыпёчына Клім.

ГА́СЬНІК, -а, *м.* Газоўка, лямпачка без шкла. *Гануля зыпаліла гасьнік.* Прыпечына Клім.

ГАСЬЦІ́НЕЦ, -нца, *м.* Гасцінец. *Прыйшоў ён ад цёткі і прынёс гасьцінец.* Пірагова Мсцісл. *Купіў ны бызарі рязовыга хлеба — дзецім гасьцінца.* Дарагая Крыч. *Прівёз з сабою вялікей пак з гасьцінцымі.* Старае Сяло Мсцісл.

ГАСЦІ́ННА, *прысл.* Гасцінна. *Заехылі ды Сьціпана, жонка яго прініла нас гасьцінна, за стол пысадзіла, яешню сьпікла.* Юркаўка Крыч.

ГАСЬЦІ́ННЫЙ, *прым.* Гасцінны. *Сапрон чылавек гасьціннэй — любіць гасьцей прыняць.* Азерцы Клім.

ГАСЬЦІ́НЫ, -аў, *мн. л.* Гасцяванне, госці. *Бацька з маткый паехылі ў гасьціны.* Вітрунь Касцюк.

ГАСЬЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Частаваць. *Ён гасьціў папа, як умеў.* Тур'е Краснап. 2. Гасцяваць, быць у гасцях. *Ну, тат, доска нам гасьціць, будзім патроху рушыцца двору!* Пірагова Мсцісл.

ГАТО́ВА, *прысл.* Гатова. *Ён майсьцір абдзелыць такея штукі. У яго ета — раз, два і гатова.* Арцёмаўка Міласл.

ГАТО́ВІЦЦА, *дзеясл.* Рыхтавацца, *К усякыму дзелу заўчэсьня гатоўсь.* Кокатава Мсцісл.

ГАТО́ВІЦЬ, *дзеясл.* Рыхтаваць. *Нада на зіму абуцьця гатовіць.* Каробчына Мсцісл.

ГАТО́ВЫЙ, *прым.* Гатовы. *Аўчыньнік усягды, як прынімаіць аўчыны, дык даець бірку, а тады па етый біркі і гатовыя аўчыны выдаець.* Бяседавічы Хоцім. *Мурцоўка ўжо гатова, ідзіця есьці.* Мсціслаў.

ГАТО́ЎКА, -і, *ж.* Наяўныя грошы. *Ні атдам за «пыгадзі», гатоўку на стол кладзі.* Краснаполле.

ГАТУВА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Рыхтаваць. *А я ж табе пысагу гатувала, а каму ж яе аддываць буду?* Стары Дзедзін Міласл. *Пылядзі, мамычка, ці ні пы мяне? || Пы цябе, дачушка, пы цябе! || А гатуй, мамухна, кублік мне.* З нар. песні. Меншая Багацькаўка Мсцісл. 2. Гатаваць. *Ты гатуй вячэрю, а я пыбягу карову пыцыркыю.* Юркаўка Крыч.

ГА́ЎРЫК, -а, *м.* 1. Уласнае імя Гаўрыла. *Гаўрык зь Цімохым пусваріліcь.* Горкі Краснап. 2. Ілгун. *Добрыя гаўрыкі вашыя хлопцы.* Хвёдараўка Краснап.

ГАЎРІ́ЛА, -ы, *м.* Уласнае імя Гаўрыла. *Гаўріла дзядзькый з сылдатыў пріішоў.* Высокі Бор Краснап.

ГАФТ, -у, *м.* Вышыўка. *Гафт прышыт ды спадніцы.* Юшкавічы Раснян.

ГАЦЬ, -і, *н.* Гаць, грэбля. *Ету гаць толькі б пераехыць, а там будзіць добрыя дарога.* Мазалава Мсцісл.

ГВАЗДАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Выцяць, стукнуць. *Гвазданyў па сьпіне.* Хвёдараўка Краснап.

ГВАЛТ, -у, *м.* 1. Гвалт, шум, крык. *У нас у хаце такі гвалт, што зы вярсту чутна.* Беразяк Краснап. *Гдзе гэта такі гвалт?* Красоўка Калініншчына. 2. Каравул. *Вадні й сьляпні як абселі кыня, дык хоць гвалт крычы.* Хвёдараўка Краснап. 3. Гвалт, разбой. *Прішлі і гвалтым кыня зыбралі.* Стары Дзедзін Міласл.

ГВАЛТО́ЎНА, *прысл.* Гвалтоўна, насільна. *Заступілі ны дарозе і гвалтоўна ўсё да чыста адыбралі.* Журбін Бялынкав.

ГВАЛТО́ЎНЫЙ, *прым.* Гвалтоўны. *Ета ж гвалтоўны ўчынак: прішоў, зыбраў, нікога ні пытаючы, і пайшоў.* Азерцы Клім.

ГВА́ЛЧЫНЬНЯ, -я, *н.* Гвалчанне, згвалчванне. *Хлыпца засудзілі за гвалчыньня дзяўчыны на тры гады астрогу.* Сохана Мсцісл.

ГВО́ЗД, -а, *м.* *Гвозд*, цвік. *Гвозд зыржавеў, біз абцугоў ня выцігніш, пакінь.* Янаўка Мсцісл. *Рубаньк затупіў, наверна, на гвозд.* Канічы Касцюк. *Я ўвыгнаў гвозд у дастку і ні рышчапіў.* Лешчынка Мсцісл. *Гвозд тырчыць.* Хоцімск.

ГВО́ЗЬДЗЯ, -я, *н. зборн.* Цвікі. *Дыстань з скрыні абцужкі і павырывай зь сьцяны гвоздзя.* Сохана Мсцісл. *Дзед выцягіваіць апцюгамі гвозьдзя з палкі.* Стары Дзедзін Міласл.

ГЕБ, -а, *м.* Злы дух. *Геб ты! Аткуль узяўся?* Хвёдараўка Краснап.

ГЕ́СТА, -ы, *ж.* Сукенка. *Цікавыя твыя геста, хто табе шыў?* Людагошч Мсцісл.

ГЕ́ТА, *займ.* Гэта. *Гета ж нада — такую абіду нанёс: век ні прашчу.* Добрае Мсцісл. *Вось гета будзе добра.* Тульдава Раснян.

ГЕШЭ́ХТ, -а, *м.* Сакрэтныя справы. *Яны вядуць гешэхт.* Хвёдараўка Краснап.

ГЗЫМС, а, *м.* Гзымс, выступ на коміне, карніз. *Пыдай мне рукавіцы — там на гзымсі ліжаць.* Ушакі Чэрык.

ГІБА́ЛА, -а, *н.* Бабка, абрубак, дзерава, на якім бондар гне абручы. *На етым гібалі лоўка гнуць абручы.* Хвёдараўка Краснап.

ГІБІ́НКА, -і, *ж.* Выгіб, крывізна. *Вось гэта гібінка бірвіна якраз прідзецца ны бугор сподніга бірвіна.* Добрае Мсцісл.

ГІБКІЙ, *прым.* Гібкі, гнуткі. *Ціряз речку пылажылі гібкае бірвяно.* Шыркі Раснян. *Ах ты, кладычка, а ты гібкая,|| Ты ня гніся пыда мной.* З нар. песні.

ГІГІКІ, -аў, *мн. л.* Гігікі, смешкі. *Табе ўсё гігікі!* Хвёдараўка Краснап.

ГІДЗЁШНІЦА, -ы, *ж.* Тоўстая кішка. *Выпытрашы кыбына, вынь кішкі, ды ні парьві гідзёшніцу.* Гібалы Касцюк.

ГІДЗІЦЬ, *дзеясл.* Гідзіць, вызываць гідасць [агіду]. *Мяне ета гідзіць. Мяне аж згідзіла.* Хвёдараўка Краснап.

ГІДКА, *прысл.* Гідка, гадка да таго, што гідзіць, агідна. *Ны яго ж гідка глядзець, як курапа рыздаўленыя.* Старае Сяло Мсцісл. *Гідка глядзець, як ён есьць сала.* Бялішчына Мсцісл. *Мне гідка ны цябе глянуць — такі ты брудны, як сьвіньня.* Ушакі Чэрык. *У нашыга Кузьмы тыкая нікрасівыя морда, нешта як выскыліцца, дык аж гідка.* Канічы Касцюк.

ГІДКІЙ, *прым.* Гідкі, агідны. *Алі ж такі гідкей стаў, хоць ні глядзі.* Парадзіна Мсцісл. *Якая ты, Ганууля, гідкыя!* Канава II Хоцім.

ГІДЛЫЙ, *прым.* Гідкі, агідны. *Ён гідлый чылавек.* Хвёдараўка Краснап.

ГІЖ, -у, *м.* Заедзь (авадні, мухі). *Як ныпаў сёньні ны кароў гіж — пызадзіралі яны хвасты, ды як пойдуць у лес!* Ушакі Чэрык.

ГІЖУВАЦЬ, *дзеясл.* Бегаць ад укусаў сляпнёў, аваднёў і мух. *Каровы гіжуюць, дык ні ўдзержыш — бягуць у жыта.* Янава Раснян.

ГІЗЫВАЦЬ, *дзеясл.* Гізаваць, бегаць. *Нашы дзеці нейдзе цэлый дзень гізывалі.* Кокатава Мсцісл.

ГІЛІЦЬ, *дзеясл.* Біць мяч гілкай. *Ты ня ўмееш гіліць.* Хвёдараўка Краснап.

ГІЛКА, -і, *ж.* Палка, якою падкідваюць мяч у час гульні. *Ета няёмкыя гілка.* Хвёдараўка Краснап.

ГІНДА, -ы, *ж.* Лаянка. *Гінда ты сьліпая.* Хвёдараўка Краснап.

ГІНУЦЬ, *дзеясл.* Гінуць, прападаць. *Людзі гінуць.* Слаўнае Мсцісл.

ГІРМАНІЦ, -нца, *м.* Немец. *У вадном маёнтку жыў гірманіц.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ГІРЫВАЦЬ, *дзеясл.* Кіраваць. *Пастух гіруя табуном.* Хвёдараўка Краснап.

ГІТАР, -а, *м.* Гітара. *Добрый гітар ёсьць у нашыга суседа.* Маластоўка Краснап.

ГЛАДЗІНЬКІЙ, *прым.* Памянш. ад гладкі. *У маёй лупаткі гладзінькыя цацё.* Канічы Касцюк.

ГЛАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Гладзіць, прасаваць. *Рыспалі вуцюг, мне нада гладзіць плацьця.* Слаўнае Мсцісл.

ГЛАДКА, *прысл.* Гладка, роўна. *Палка абцісана гладка.* Бязводзічы Мсцісл.

ГЛАДКІЙ, *прым.* 1. Гладкі, роўны. *Еты кружочык абтачыць нада, штоб гладкі быў.* Мсціслаў. 2. Гладкі, тлусты, сыты. *Наш конь гладкій — пародзістыя масьці.* Слаўнае Мсцісл.

ГЛАДУНЕЦ, -нца, *м.* Гладкі, выпешчаны чалавек. *Мужык гладунцом ні бувая.* Палуж Краснап.

ГЛЕЙ, -ею, *м.* Глей, белая гліна. *Ныкыпай глею: будзім бяліць хату.* Слаўнае Мсцісл.

ГЛЕЙС, -у, *м.* Бляск, глянец. *Навесьці нада глейс на боты.* Куркаўшчына Мсцісл.

ГЛЁК, гліка, *м.* Глёк, гляк, гліняная пасудзіна з вузенькім горлам. *Як будзеш іці ў поля, ныбяры ў глёк вады.* Пячонкі Раснян. *Прынясі глёк з вадой.* Юравічы Клім. *Выда ў гляку стала цёплай.* Вародзькава Крыч. *Налі вады ў глёк.* Крычаў.

ГЛЕЧ, -а, *м.* Шавецкая прылада, драўляная палачка для заціравання краёў падэшвы. *Пыдай глеч хуччэй, зылыскываць падэшвы, ды боты гатовы. У мяне злымаўся глеч.* Тур'я Чэрык.

ГЛІНА, -ы, *ж.* Гліна *Гліна яшчэ дужа густа, мала ва́ды лілі — нада пыдбавіць.* Арцёмаўка Мілaсл. *Як кінуў ён камок гліны ў вугал — так ён і расплюшчыўся.* Пірагова Мсцісл. *Под хырашо высланы глінаю.* Пухнава Раснян.

ГЛІНЦЫВАНЫЙ, *прым.* Глянцаваны. *Глінцываныі сыпагі ў гразь удзелыў, што й глянцу ні відна.* Б. Хутары Краснап.

ГЛІНЦЫВАЦЬ, *дзеясл.* Глянцаваць. *Дос табе ўжу глінцываць, сероўна ў грязь удзелыш, ік пайдзем, ты сваі бушмакі.* Высокі Бор Краснап.

ГЛІНЯНЫЙ, *прым.* Гліняны, зроблены з гліны. *Гліняныя чашка.* Стары Дзедзін Мілaсл. *Латка — міска гліняныя.* Азерцы Клім.

ГЛІСЬНІК, -а, *м. бат.* Гліснік. *Глісьнік расьце пы ялывіных. Жоўтыя цьвяты.* Хвёдараўка Краснап.

ГЛОТКА, -і, *ж.* Глотка, горла. *У мяне баліць глотка.* Хоцімск. *Жуўлачча кругом глоткі абваліла, дык і есьць нільзя.* Хвёдараўка Краснап. *Йіда ўперід пупыдаіць у рот, тады ў глотку, а пысьля ў ечу, а зь ечы ў жывот.* Слаўнае Мсцісл.

ГЛУБОКІЙ, *прым.* Глыбокі. *Выкыпалі глубокі калодзіш.* Слаўнае Мсцісл. *Кыткамі глубокія выбаі пынадзелылі.* Хвёдараўка Краснап. *Тут глубокыя месца — вір.* Юр'евічы Калінінщчына.

ГЛУЗЬДЗІЦЬ, *дзеясл.* Хлусіць, гаварыць відавочную няпраўду. *І як яму ні ўстыдна глузьдзіць пірыд усімі!* Добрае Мсцісл.

ГЛУМ, -у, *м.* 1. Глум, дурасць, дурнота. *Найдзець глум ны гылаву, дык сядзіць лі выкна і плачыць.* Горка Хоцім. 2. Здзек, асмяянне. *Куды такога хлопца пашлём, толькі на глум людзей.* Дубеец Касцюк. 3. Глум, псаванне. *Мы ім і ні папользывылісь — усё ў глум пашло. Многа сена ў глум ідзе — пад ногі топчыцца.* Парадзіна Мсцісл.

ГЛУМА, -ы, *ж.* Той, хто глуміцца, здзекуецца над кім. *Вот глума нейкыя: кыла ўсіх ён пысьмяецца.* Машавая Бялынкав. *Ты дзяцюк — глума, ты зьвядзеш с ума, || Любіць ты ня будзіш.* З нар. песні, М. Г. 117.

ГЛУМІЦЦА, *дзеясл.* Глуміцца, здзеквацца. *Голуб глуміцца над чыжом.* Роськаў Клім. *Брат з брата глуміцца.* Гарманава Мсцісл.

ГЛУПСТВА, -а, *н.* Глупства, дурасць. *Глупства з твайго боку абманівіць стары-*

*ка.* Добрае Мсцісл. *Глупства ты кажыш.* Вербеж Чэрык.

ГЛУ́ПЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Глупства. *Білябеніць языком глупысьці.* Хвёдараўка Краснап.

ГЛУХА́Я БЯРО́ЗА, *бат.* Бяроза пухнатая. *У глухой бярозы ліст ні мучаный.* Хвёдараўка Краснап.

ГЛУХА́Я КРЫПІВА́, *бат.* Глухая крапіва. *Глухая крыпіва расьцець на пустырох і кыля плоту. Іна ня стрыкыіцца.* Пірагова Мсцісл.

ГЛУХІ́Й, *прым.* 1. Глухі. *Ён можа глухі, ня чуе?* Васілёўка Хоцім. *Яна глухая, як турлушка.* Хвёдараўка Краснап. 2. Далёкі, аддалены. *Глухое месца ў етым лесе.* Юр'евічы Калінiншчына.

ГЛУШМА́Н, -а, *м.* Глушак, глухі чалавек. *Еты глушман нічогінькі ня чуя.* Хвёдараўка Краснап.

ГЛУШМЕ́НЬ, -я, *м.* 1. *заал.* Глушэц. *Чуіш? Дзей-та блізька глушмень такуіць.* Высокі Бор Краснап. 2. Глушак, глухі чалавек. *Глушмень ты, глушмень, мы табе крічым, а ты й ні аглінесьсі.* Там жа.

ГЛУШНЯ́, -і, *ж.* Глушак, глухі чалавек. *Глушня ты, я табе крычу, а ты ня чуіш.* Барысавічы Клім.

ГЛУШЭ́Ц, -шца, *м. заал.* Глушэц. *Цяперыка мала ўжо глушцоў у лесі.* Хвёдараўка Краснап.

ГЛЫБАЕ́Д, -а, *м.* Абдзірала, аб'ядала. *Глыбаеды етыя, аб'елі мяне ўсяго кругом. Во, навізаўсь, глыбаед етый!* Хвёдараўка Краснап.

ГЛЫМЫЗДА́, -ы, *ж.* Гламазда, нікуды няварты чалавек, лішні ў хаце. *Наш Васіль — ета ныстыяшчыя глымызда: ні зьдзелыць, ні скызаць — толькі месца зыймае.* Гарманава Мсцісл. *Спасіба таму пыязду,|| Што зьвязьлі з двыра глымазду.* З нар. песні, М. Г. 46.

ГЛЫНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Глынуць. *Сок з етый травы атрутный, калі яго чуць-чуць глынуць, дык січас жа памреш.* Бяседавічы Хоцім.

ГЛЫТА́ЦЬ, *дзеясл.* Глытаць. *Дохтыр даў круглінькія галычкі, глытаў — выздыравеў.* Старае Сяло Мсцісл.

ГЛЯДЗЕ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Глядзець, пазіраць. *Я сяньні табе цясёмку сыткала, ато стыдна глядзець, што ты рысьпірягій ходзіш.* Бяседавічы Хоцім. *Гляджу, ажно аткылупілась пасьці пылавіна.* Пірагова Мсцісл. *Дзеці сядзелі ціхамірна, глядзелі бабі ў рот і слухылі казку.* Арцёмаўка Міласл. 2. Глядзець, сцерагчыся. *Глядзі за ім.* Хоцімск. *Ён у мяне такі нейкі нягеглый, глядзіця, каб яго там хлопцы ня 'бвіхнулі.* Асмолавічы Мсцісл. *Глядзі, ні абмахніся ў выбыры.* Кокатава Мсцісл. 3. Глядзець, зважаць. *Ты не глядзі, што гэты конь нявідный, а ён добры конь і да корму і ды работы.* Пячонкі Раснян. *Ты не глядзі ны пагоду, а едзь.* Людагошч Мсцісл.

ГЛЯ́ДКА, *прысл.* Напэўна, глядзі-ка. *Ат Кышалёва да Стрэшня вярстой трыццаць, глядка, будзя.* Буда-Кашалёўская.

ГЛЯК, -а, *м.* Гляк. *Мама прынісла́ поўны гляк вады.* Глінь Касцюк.

ГЛЯ́НЕЦ, -нцу, *м.* Глянец, бляск. *Купі мне ў горыдзі пуштэнт лі глянцу.* Тур'я Чэрык.

ГЛЯ́НУЦЬ, *дзеясл.* Глянуць. *Страх глянуць ны яго, так ён высах.* Баброва Раснян. *Глянь, які абрус прыгожы.* Мсціслаў. *Мы знычала грябլі спыхвыля, аж глянулі, туча зьбіраіцца, дык мы як узялісь!* Арцёмаўка Міласл. *Як выйду я ды ны ганычкі, || Як гляну я ды ны красычкі.* З нар. песні, М. Г. 28.

ГЛЯЧО́К, -чка, *м.* Памянш. ад гляк. *Дзеці разьбілі глячок.* Маластоўка Краснап. *Матка прынісла нам квасу ў глячку.* Пірагова Мсцісл.

ГНАЁК, гнайку́, *м.* Памянш. ад гной. *Вы сяньні гнаёк возіце?* Баброва Раснян. *А на нівычку гнаёк, || А ны мяне мыладу лаёк.* З нар. песні, М. Г. 99.

ГНА́ЦЦА, *дзеясл.* Гнацца, бегчы. *Ён гнаўся на выганкі.* Шарэйкі Касцюк.

ГНАЦЬ, *дзеясл.* 1. Гнаць, выціскаць. *Міхалка гнаў у пуні сымагон, а міліцанер накрыў: прытакол сыставіў.* Слаўнае Мсцісл. 2. Гнаць. *Нада гнаць скаціну ў поля.* Канічы Касцюк. *Коні гналі пугай.* Беразняк Краснап.

ГНЕ́ВЫЦЦА, *дзеясл.* Гневацца. *Зы такую ірунду ты гневыцца ны мяне ўздумыў.* Слаўнае Мсцісл.

ГНЕ́СЬЦІСЬ [гнéсца], *дзеясл.* Гнясціся, мець патугі. *Ны мяне гнётка нupала: гнятусь, а нічога ні выходзіць.* Горкі Краснап.

ГНЕТ, -а, *м.* Бервяно, якім навальваюць лён або каноплі, калі мочаць, каб апошнія не выплывалі наверх. *Гнёт нехта сьکінуў, і пінька выплыла наверьх.* Кашалёва Буда Краснап. *Гняты ліжалі ўсё лета ў сажылцы, дык дужа пыныбраклі.* Кокатава Мсцісл. *Піліп цяжолый, як гнёт,— ні падыміш.* Палуж Краснап.

ГНЕТАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Прыціснуць, цісkануць. *Як гнетану цябе, дык і вантробы вылізуць.* Юркаўка Крыч. *Я гнітану цябе.* Палуж Краснап.

ГНЕ́ТКА, -і, *ж.* Хвароба, гнётка, цяжкая форма паносу. *У дзіцёнка гнётка: адно гніцецца, аж кроўю, і што тут дзелыць зь ім, ні ведыю.* Палуж Краснап.

ГНІЛЫ́Й, *прым.* Гнілы. *Гнілая хата, старый конь і поўнадзела зямлі — вот і ўся яго маімысьць.* Бяседавічы Хоцім. *У сажылцы выда гнілая: у ёй пяньку мачылі.* Арцёмаўка Міласл.

ГНІЛЯ́Ш, -а, *м.* Загнілы печаны хлеб. *Ён гніляшы есьць.* Хвёдараўка Краснап.

ГНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Гніць. *Сена ні звазілі, копы гніюць пыд дажджом, а яны хуць ба што.* Арцёмаўка Міласл. *Стаўлены горыд будзіць гніць, || А я молыда буду жыць.* З нар. песні. Большая Багацькаўка Мсцісл.

ГНОЙ, -ю, *м.* Гной. *Пыд ячмень трэба вазіць гной.* Зубоўка Раснян. *Пыра ўжо вазіць гной пад бульбу.* Тульдава Раснян. *Вазьмі кыпач ды гною ныкыпай.* Хвёдараўка Краснап. *Нывазілі паўполя гною.* Стары Дзедзін Міласл. *Нада з пуні вывазіць гной.* Слаўнае Мсцісл.

ГНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Гнуцца. *Ну і вёдры нясець, аж каромісіл гнецца.* Бяседавічы

Хоцім. *Вецір веіць, вецір веіць, аж гольлійкі гнуцца,* || *Кыла мяне мыладої ўсі хлопцы сьмяюцца.* З нар. песні. Шумячы.

ГНУЦЬ, *дзеясл.* Гнуць, згінаць. *Дугі гнуць ны бабку.* Хвёдараўка Краснап. *Пыхіляныя макушкі арешын у лесі бываюць ат таго, што іх гнуць, дыстаючы аряхі.* Арцёмаўка Міласл.

ГНЫЯВО́З, -а, *м.* Гнаявоз, той, хто возіць гной. *Гныявоз ты!* Хвёдараўка Краснап.

ГНЯДЫ́Й, *прым.* Гняды. *Гняды бычок дужэйшы за сівыга.* Валымір Раснян. *Там пры Дунаю табуны маю,* || *І сівыя, і гнядыя, і плісьнявыя, і выраныя.* || *Кылі зловім, дык паедзім.* З нар. песні, М. Г. 97.

ГНЯЗДО́, -а, *н.* Гняздо. *Буцяна ны стряхе зьвіла гняздо.* Зубаўка Раснян. *Шчамель дзелыіць гняздо ў зямлі пад мохым, толькі ў сухом месьці.* Арцёмаўка Міласл. *Ня ві гнізда прі дарозі,* || *А на белінькій бярёзі.* З нар. песні, М. Г. 133.

ГНЯЗЬДЗЕ́ЧКА, -а, *н.* Памянш. ад гняздо. *Нашоў іўчына гнязьдзечка, а ў ім сем штук ячак.* Хвёдараўка Краснап.

ГОД, -а і -у, *м.* Год, адрэзак часу ў 365 дзён. *Ужо год, як мой дайжнік ня можа аддаць мне доўг.* Слаўнае Мсцісл. *Году німа, як сістра мыя замуж вышла.* Стары Дзедзін Міласл. *Майму сыну ўжо шэсць гадоў.* Усполле Раснян.

ГО́ДЗЕ, *прысл.* Годзе, даволі, досыць. *Годзе табе хлусіць, мне ты ныдаеў.* Беразняк Краснап.

ГО́ДЗІ, *прысл.* Годзе. *Годзі табе лаяць яго!* Лешчынка Мсцісл. *Годзі табе ка мне прістываць, усё роўна нічога ні палучыш.* Бяседавічы Хоцім.

ГО́ДЗІК, -а, *м.* Памянш. ад год. *На трэцім годзіку Янка зыгыманіў прыразьліва.* Варанёва Крыч.

ГОДЗЬ, *прысл.* Годзе. *Годзь табе зь ім дражніцца, пакінь, ато ён січас заплачыць.* Бяседавічы Хоцім. *Годзь балываца.* Іванаўка Хоцім.

ГО́ДЗЯ, *прысл.* Годзе. *Годзя табе гутарыць, хадзем!* Паходавічы Чэрык. *Годзя табе ўгаць, хваціць!* Арцёмаўка Міласл.

ГО́ДНЫЙ, *прым.* Годны. *Пычатык песьні харошы, а канец нікуды ня годзен.* Арцёмаўка Міласл. *Куда годна ета мытавіла.* Тур'я Чэрык.

ГО́ДНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Годнасць, карысць. *Длі чаго ты прівёз ета бірьвяно? Ікая зь яго годнысьць?* Беразняк Краснап. *Годнысьць сінакоса дужа малыя, асыка 'дна: скаціна есьць ні будзіць.* Горкі Краснап.

ГО́ЖЫЙ, *прым.* Гожы, прыгожы, прыстойны. *Такую гожую дзеўку кажный зы сябе возьміць замуж.* Палуж Краснап.

ГОЙ, *выкл.* Гэй. *Гой, гой, кысары, што вы рана пычалі!* З нар. песні. Хвёдараўка Краснап.

ГО́ЙКНУЦЬ, *дзеясл.* Крыкнуць. *Ну ікая тут прікрепка, калі хырашо гойкнуць, дык усё і пыляціць.* Бяседавічы Хоцім.

ГО́ЛАС, -у, *м.* Голас. *Чую — як бы знаёмы голас, а пызнаць ніяк не магу.* Усполле Раснян.

ГО́ЛДА, -ы, *ж.* Высокага росту жанчына. *Пыжаніліся: ён карузьлік, а йна голда.* Хвёдараўка Краснап.

ГО́ЛУБ, -а, *м.* Голуб. *Голуб із галубкыю сідзяць ны стрясе.* Парадзіна Мсцісл. *Аднаму каму я й зыстануся:* || *Калі голубу, дык галубычка,* || *Калі сокылу, дык саколычка.* З нар. песні.

ГО́ЛЫЙ, *прым.* Голы. *Матрос вастывіў голыя пелькі.* Хвёдараўка Краснап. *Яна джога, голымі рукамі ня возьміш.* Горкі Краснап. *Пастух загоніць статык на голыя места і дзяржыць там цэлый дзень.* Слаўнае Мсцісл.

ГО́ЛЫД, -у, *м.* Голад. *Людзі з голыду гінуць.* Зоры Чэрык. *А ўражы сын пыдманіў,* || *Чуць з голыду ні ўмарыў.* З нар. песні, М. Г. 152.

ГО́ЛЫС, -у, *м.* Голас. *Голыс чуць неткуль.* Палуж Краснап. *Ну які ж у цябе разьліві голыс — проста хоць вушы затыкай.* Ушакі Чэрык.

ГО́ЛЫСНА, *прысл.* Голасна. *На загувальні сядзела Аріна і голысна плакыла.* Лешчынка Мсцісл.

ГО́МАН, -у, *м.* Гоман, шум ад гаворкі. *У хаці стаіць гоман, аж сьцены рызьлігаюцца.* Іванаўка Хоцім. *Чуцен быў гоман.* Канава І Хоцім.

ГО́НАР, -у, *м.* Гонар. *Гонар свой паказвае: знацца з намі ня хоча.* Паходавічы Чэрык. *Збаў троху гонару, ато ён у цябе дужа вялікі.* Сапрынавічы Мсцісл.

ГО́НІ, -іў і -ей, *мн. л.* Гоні, няпэўная мера даўжыні ў 60—100 сажняў. *Цэлыя гоні ўзарай.* Юркаўка Крыч. *Мы засеялі просы цэлыя гоні.* Лапаціна Мсцісл. *Поле маё — трое ганей.* Паходавічы Чэрык.

ГО́НЫР, -у, *м.* Гонар. *Я меў гоныр пабыць у гысьцях у самыга старшыны.* Слаўнае Мсцісл.

ГО́РА, -а, *н.* Гора, бяда. *Чужоя гора ні такоя, як сваё.* Андраны Раснян. *Сыбраліcь дзьве суседкі ды гукаюць аб сваім горы.* Ушакі Чэрык. *Чаго ты божкыіш? Усёдно гору ні пасобіш.* Палуж Краснап.

ГОРБ, -а, *м.* Горб. *Ён весь у горб расьцець, відзіш, які ў яго вялізный горб на сьпіне.* Усполле Раснян.

ГО́РІЧА, *прысл.* Горача. *Вазьмі даўжэйшыя клешчы, ато етымі горіча дзіржаць.* Бяседавічы Хоцім.

ГО́РКІЙ, *прым.* 1. Горкі. *Палын горкі, ня рві, бо і рукі будуць горкія.* Мсціслаў. *Надта горкыя цыбуля — есьць нільзя.* Карма-Пайкі Крыч. *А што табе, Васілька, спыдыбалыся тута?* || *А ці мёд, ці віно, ці горкыя гарелка?* З нар. песні. 2. Горкі, цяжкі, нешчаслівы. *Доля мыя горкыя.* Большая Багацькаўка Мсцісл. *Горкыя я, нішчасныя, што мне цяпер дзелыць?* Краснаполле. 3. Горкі, бездапаможны. *Горкыя сірыта.* Вербеж Чэрык. *Ён яшчэ горкі дзіцянёнык, чаго ты ад яго хочыш?* Краснаполле. 4. Горкі, безнадзейны, прапалы. *Аддыла мяне маці за горкыга пьяніцу.* Шыркі Раснян.

ГО́РЛА, -а, *н.* Горла. *Як горла баліць, знайдзі ны мяжы цьвяток гырлянку.* Хвёдараўка Краснап. *Дайце вады, нешта ў горлі пірасохла.* Мсціслаў.

ГО́РЛІЧКА, -а, *н.* Памянш. ад горла. *У шкляныцацы горлічка адбілыся.* Хвёдараўка Краснап.

ГО́РСТКА, -і, *ж.* Жменя. *Як учапіўсь ёй у выласы, дык цэлую горстку вырваў.* Ушакі Чэрык.

**ГО́РСЬЦЬ**, -і, *ж.* Жменя. *З горсьці ільну выходзіць дзьве мычкі, а калі лён дренный, дык толькі адна.* Бяседавічы Хоцім.

**ГО́РУШКА**, -і, *ж.* Памянш. ад гара. *Горушка крутая, скажы мне ўсю праўду, йкая зіма будзіць.* Багацькаўка Мсцісл.

**ГО́РШЫЦЦА**, *дзеясл.* Горшаць, станавіцца горшым. *Здароўя ні лучшыя, а горшыцца — уміраць, відна, пыра.* Горкі Краснап.

**ГО́РШЫ**, *прысл.* Горш, горай. *Яму ўчора горшы было; сёньня лепій стала.* Зубоўка Расням.

**ГО́РШЫЙ**, *прым.* Горшы. *Чым я горшы за ўсіх людзей?* Ушакі Чэрык. *Маё жыта горшыя за суседнія было, а налог ны мяне ылажылі, роўны з усімі.* Дзянісавічы Клім.

**ГО́РЫД**, -а, *м.* Горад. *Паехыў у горыд яшчэ ўчора, а й сяголеньні няма.* Стары Дзедзін Міласл. *Якраз паехыў бацька ў горыд.* Палуж Краснап. *Зыгыдала баба ехаць у горыд, ды пагода дрэнныя.* Сохана Мсцісл. *Старухі зьбіраюцца к ушэсьцю ў горыд.* Людагошч Мсцісл..

**ГО́РЫЧКА**, -і, *ж.* Памянш. ад гара. *Ніхто горычкі ня зьнiміць, ‖ Ніхто долічкі ня зьменіць.* З нар. песні, М. Г. 114.

**ГО́РЬКА**, *прысл.* Горка. *Мёду многа ні зьясі — прікра станіць і дайжа горька.* Арцёмаўка Міласл.

**ГО́РЯ**, -я, *н.* Гора, бяда. *Як падумыіш пра сваё горя, пра сваё адзіноцтва — ажна жудысьць бярець.* Гібалы Касцюк. *Горя ў мяне ніздалімыя.* Палуж Краснап. *З горя ён хваціў нейкія атруты — чуць ні памёр.* Слаўнае Мсцісл.

**ГО́СЬЦІ**, -яў, *мн. л.* Госці, гасціна. *Зыпрягі-ка вазок, нада зьездзіць у госьці к свату.* Бяседавічы Хоцім. *Як ты чылавек лёзны, прыязджай к нам у госьці часьцей.* Касцюшкавічы Крыч.

**ГО́СЬЦІК** -а, *м.* Памянш. ад госць. *Піце, есьце, госьційкі, біс прімусу.* Сохана Мсцісл. *Госьцікі мае, назола мыя, ‖ Ці ні паедзіця ўжо самі сы двыра.* З нар. песні. Слаўнае Мсцісл.

**ГОСЬЦЬ**, -я, *м.* Госць. *Зыяжджай часьцей ды нас: будзіш пыжыланный госьць.* Пірагова Мсцісл. *Пысадзі на покут, як самыга лепшыга гысьця.* Ушакі Чэрык. *Госьці прышлі, а яна хоць бы пыклыпацілась прыбрацца трошкі.* Парадзіна Мсцісл.

**ГО́ЦЫНЬНЯ**, -я, *н.* Скаканне, падскокванне. *Кінь сваё гоцыньня ны лаўцы, ато заробіш па шыі.* Палуж Краснап. *На зынятках фізкультурай некалькі мінут было гоцыньня на адным месьці.* Сохана Мсцісл.

**ГО́ЦЫЦЬ**, *дзеясл.* Скакаць. *Дзяўчына гоцыіць.* Юркаўка Крыч. *Вяерка зь веткі на ветку гоцыіць.* Высокі Бор Краснап.

**ГРА́БАР**, -а, *м.* Грабар. *Нынялі грабара капаць калодзіж.* Сохана Мсцісл. *Тата, прышлі грабары калодзіж капаць.* Новыя Капачы Мсцісл.

**ГРАБЕ́ЛЬЦЫ**, -аў, *мн. л.* Граблі. *Грабельцамі грабуць сена.* Шарэйкі Касцюк.

**ГРАБЁНКА**, -і, *ж.* 1. Рэгулятар. *У плузе зламілася грабёнка.* Бязводзічы Мсцісл. 2. Стрыхоўка, дошчачка з зубамі, якою падбіваюць салому, як крыюць стрэхі. *Грабёнка сьлінулась с крышы, пыдай.* Хвёдараўка Краснап. 3. Плыт. *Пойдзем гнаць грабёнкі.* Людагошч Мсцісл.

**ГРАБЕ́ШКА**, -і, *ж.* Граблі. *Ат марозу рукі як грабешкі пырабіліся.* Багацькаўка Мсцісл.

**ГРА́БІЛЬКІ**, -аў, *мн. л.* Памянш. ад граблі. *Вазьмі, сынок, грабількі ды йдзі пымажы бацьку сена згрібаць.* Паўлавічы Клім.

**ГРАБІ́ЛЬНІЦА**, -ы, *ж.* Грабільна. *Грабільніца няёмкыя, ныграбеш, дык рукі адбярэ.* Хвёдараўка Краснап.

**ГРАБІЛЬНО́**, -а, *н.* Грабільна. *Яловае грабільно добрае: і лёгкае і роўнае.* Пухнава Расням. *Легчы грабі, ато грабільно зломіш.* Бяседавічы Хоцім.

**ГРА́БЛІ**, грабе́ль, *мн. л.* Граблі. *Мікола! Бяры граблі, пойдзем сена грэсьць.* Бяседавічы Мсцісл. *Перакінуў ны плячо граблі дый пашоў.* Парадзіна Мсцісл. *Прінясі стамеску, здзелыю брусок у граблі.* Бяседавічы Хоцім. *З грабель вываліўся клец.* Бязводзічы Мсцісл.

**ГРАБЛО́**, -а, *н.* Скрэбніца, прылада чысціць коней. *Вазьмі грабло ды пачысьць кыня, ато весь у гнаі.* Мацутаўка Расням.

**ГРАБЦІ́**, грэ́сць, *дзеясл.* 1. Грэбці, зграбаць. *Мы на лузе граблі сена.* Янаўка Мсцісл. *Рыськірака некыя: ідзець, як быраной грабець.* Ушакі Чэрык. 2. Веславаць. *Мы ехылі ў лодцы і граблі дзьвюмя пачынамі.* Малюшын Краснап.

**ГРАД**, -у, *м.* Град. *Град усю ярыну павыбіў.* Гусарка Клім. *Ён чыраўніцтва нейкыя знаіць, што ны яго полі град ня біў, зыгыварівыць, верна, ўмеіць.* Арцёмаўка Міласл. *Градым разьбіла шыбку ў вакне.* Людагошч Мсцісл.

**ГРА́ДКА**, -і, *ж.* 1. Памянш. ад града. *Пысадзіла дзьве градкі квасолі.* Лютня Краснап. 2. Кратка. *Прівяжы градку к сынят, нада з'езьдзіць к свату.* Бяседавічы Хоцім.

**ГРА́ДУСНІК**, -а, *м.* Градуснік, прылада мераць тэмпературу. *Дохтыр пыставіў градусьнік.* Хвёдараўка Краснап.

**ГРАЗД**, *прысл.* Здольны. *Ён у нас хлапец рухманы, і ны бабскую і на мужычую работу гразд.* Смолькаўская Буда Бялынкав.

**ГРАЗІ́ЦЬ**, *дзеясл.* Пагражаць. *Ён мне ўсё грозіць! Ты мне не гразі: я цябе ні баюся.* Гарбавічы Касцюк.

**ГРА́ЗНЫЙ**, *прым.* Брудны. *Пярэднік гразны, памый ты яго.* Юркаўка Крыч. *Суножка гразна. Мыя намётка гразныя, трэба памыць.* Маластоўка Краснап. *Дуня! Нада памыць пасьцілку, ато йна дужа гразна.* Новыя Капачы Мсцісл.

**ГРАЗЬ**, -і, *ж.* Гразь. *Усю чыста сьвіткy запэцкаў у гразь.* Сохана Мсцісл. *Адзьдзяры гразь ны масту вехцім.* Хвёдараўка Краснап.

**ГРАК**, -а, *м.* Грак. *Во і грак прыляцеў, значыць, вясна скора.* Лешчынка Мсцісл.

**ГРА́КНУЦЬ**, *дзеясл.* Гракнуць, кінуць вобземлю. *Як гракнуў яго аб землю, дык пячонкі 'тсадзіў.* Хвёдараўка Краснап.

**ГРАМАХВО́НЧЫКІ**, -аў, *мн. л.* Бярозка, уюнок. *Грамахвончыкі ўюцца пы зямлі — розавінькія, белінькія цьвяточкі ў іх.* Парадзіна Мсцісл.

ГРА́МЫТА, -ы, *ж.* Грамата. *Грамыта яму ні даецца; тры зімы ў школу хадзіў, і нічога ні знаіць.* Сапрынавічы Мсцісл.

ГРАНО́К, -нка, *м. заал.* Ластаўка берагавая, стрыж. *Гранок пыляцеў. Гранкі літаюць.* Мсціслаў.

ГРАХВІ́НЯ, -і, *ж.* Графіня, вялікая пані. *Эйш, ікая грахвіня, рукі зымараць баіцца.* Палуж Краснап.

ГРАЦ, грыцá, *м.* Матыка. *Грацым акучываюць бульбу.* Крычаў.

ГРАЦЬ, *дзеясл.* Граць. *Або грай, або грошы аддай.* Мсціслаў.

ГРАЧЫ́ХА, -і, *ж. бат.* Грэчка. *Грачыха цьвіцець прыгожымі бела-розавымі цьвецікамі.* Пірагова Мсцісл. *Высып ты гэту грачышку ў лазобку.* Добрае Мсцісл.

ГРЕ́БАВАЦЬ, *дзеясл.* Грэбаваць. *Што вы не ясьцё? Можа гребаваеце нашаю ядою?* Дубеец Касцюк.

ГРЕ́БІНЫЙ, *прым.* Грэбены. *Барджэй ты варочайся: туча находзіць, а сена ня гребіна.* Гібалы Касцюк.

ГРЕ́БЛІВЫЙ, *прым.* Грэблівы. *Дужа ты греблівый — есьць адной ложкай з намі ні хочыш. Ну, й будзіш галодный.* Высокі Бор Краснап. *Аксёна дужа греблівыя — іна чужую кохту ні надзеніць.* Б. Хутары Краснап.

ГРЕ́БЛЯ, -і, *ж.* Грэбля, гаць. *У павыдкі греблю прырвала, дык цяперь речка саўсім пірясохла.* Бяседавічы Хоцім.

ГРЕ́БЫВАЦЬ, *дзеясл.* Грэбаваць. *Вы намі ня гребывайця.* Карма-Пайкі Крыч.

ГРЕСЬЦЬ, *дзеясл.* Грэбці. *Ета сена яшчэ волкывата, ніхай пыляжыць, нільзя яго такім гресьць.* Арцёмаўка Міласл.

ГРЕХ, -а, *м.* Грэх. *У вялікій пост нільзя есьць зь мясым — грех.* Слаўнае Мсцісл.

ГРЕ́ЧКА, -і, *ж.* Грэчка. *Гречку ўжо пасеілі.* Гусаркі Клім.

ГРІ́Б, -а, *м.* Грыб. *Масьлінка з блінамі, а пост з грібамі.* Гібалы Касцюк. *Трэба нызыпасывыцца к зіме ягыдымі, грібамі.* Палуж Краснап. *Сяньні я ныбрала ў лесі целый кузый грібоў.* Бяседавічы Хоцім. *Доля мыя, у грібы хадзіла, ‖ Доля мыя, грібоў ні ныбрала.* З нар. песні, М. Г. 109.

ГРІБНЫ́Й, *прым.* Грыбны. *Етый год — грібны.* Дзіснакіта Мсцісл. *Грібны смуж.* Юркаўка Крыч. *Я знаю грібноя месца ў лесі.* Цёмны Лес Расьнян.

ГРІБЯНЕ́Ц, -нца, *м.* Грабянец. *Пыдайка мне грібянец, нада гылаву пычысаць.* Бяседавічы Хоцім. *Пріехыла Хадоска с-пыд вінца, ‖ Зашукалыся грібінца.* З нар. песні, М. Г. 19.

ГРІБЯШО́К, -шка, *м.* Грабянец. *Я купіла сабе ў гылаву грібяшок.* Слаўнае Мсцісл.

ГРІ́ВА, -ы, *ж.* Грыва. *Конь пыхадзіў кылы прясла, дык цэлыя гріва і хвост дзядоў нычыплялысь.* Бяседавічы Хоцім.

ГРІДА́, -ы, *ж.* Града. *Адна гріда морквый зысаджына, а другая — репый.* Асмолавічы Мсцісл.

ГРІЖДАНІ́Н, -а, *м.* Грамадзянін. *Гріжданін, вы пацірялі трі рублі, вазьміця.* Горкі Краснап.

ГРІЖДА́НКА, -і, *ж.* Грамадзянка. *Скажыце, гріжданка, айдзе ў вас сільсавет?* Б. Хутары Краснап.

ГРІЗЬНЯ́, -і, *ж.* Грыжа. *Пыдняў бірвяно ны калёсы, і грізьня набегла, чуць ні скончыўся: так крічаў, пыка ні ўправілі.* Хвёдараўка Краснап.

ГРІ́ЎКА, -і, *ж.* Памянш. ад грыва. *Пышанічка на ніўку, ‖ Каб прівіла кыня за грійку.* З нар. песні, М. Г. 100.

ГРІ́ЎНА, -ы, *ж.* Грыўня, 10 кап. *Дыгыварілісь па рублю ў дзень, а зыплаціў па восім грівін — вось жулік.* Арцёмаўка Міласл.

ГРІ́ХВІЛЬ, -я, *м.* Грыфель. *Купі мне тата крындаш і гріхвіль.* Слаўнае Мсцісл.

ГРОБ, -а, *м.* Труна, дамавіна. *Адзіноцтва ў гроб зыгыняіць.* Пірагова Мсцісл. *Сьвякрову ў гроб кладуць.* Багацькаўка Мсцісл.

ГРО́ЗНЫЙ, *прым.* Грозны. *Грозін жук, ды ніхто яго ні баіцца.* Дзеражна Касцюк. *Грозін ураг, но мы яшчэ гразьней.* Слаўнае Мсцісл.

ГРОМ, -у, *м.* Гром. *Гром грыміць, і бліщчыць мылыдня.* Кокатава Мсцісл. *Зыстукацей гром, як на лесьніцы.* Хвёдараўка Краснап. *Пысьля грому быў дождж.* Іванаўка Хоцім.

ГРО́МКА, *прысл.* Громка, голасна, гучна. *Хлопцы з дзеўкамі вясёла жыртывалі і громка сьміялісь.* Сохана Мсцісл. *Громка бье твой мушкет.* Юркаўка Крыч.

ГРОШ, -а, *м.* Грош. *У мяне німа ні грыша.* Слаўнае Мсцісл. *Грош яму цына ў базарны дзень.* Паўлавічы Клім.

ГРО́ШЫ, -аў і -ый, *мн. л.* Грошы. *Плаці грошы, і рыспалогу німа.* Палуж Краснап. *Во калі б меў я кучу грошы, то быў бы шчасьлій.* Лешчынка Мсцісл. *Баба прашнулыся, ужыгнулыся, што грошый няма.* Ельня Краснап. *Згубій усе грошы.* Ушакі Чэрык. *Брат прыслаў два чырвонцы грошаў.* Пірагова Мсцісл.

ГРО́ШЫК, -а, *м.* Памянш. ад грош. *Во грошыкі круглыя, як талеркі.* Залессе Клім.

ГРУ́БА, *прысл.* Груба. *Груба ён зь ім абыходзіцца.* Машавая Бялынкав.

ГРУ́БКА, -і, *ж.* Грубка, печачка, галандка. *Склаў у хаце печ і грубку.* Палуж Краснап. *У Макара добрая грубка: дроў мала бярэ, і цёпла.* Зялёны Луг Мсцісл. *Грубка топіцца праз дзень.* Малюшын Краснап.

ГРУ́БЫЙ, *прым.* Тоўсты. *Тваe ніткі грубыя, а мае тонкія.* Гарбавічы Касцюк.

ГРУД, -у, *м.* Груда, куча. *Етый груд хвырасту трэба спаліць.* Хвёдараўка Краснап. *Нымылацілі целый груд саломы.* Слаўнае Мсцісл. *Лясьнік зыгыдаў скласьці дровы ў груды.* Турэйск Краснап.

ГРУДА, -ы, *ж.* Груда, замёрзлая гразь. *Была грязь, а сяньнішнім марозым падмерзла, дык зьдзелылыся тыкая груда, што ані ехыць ня можна.* Слаўнае Мсцісл.

ГРУ́ДЗІ, -дзей, *мн. л.* Грудзі. *Зысланіла грудзі, і дыхаць некуды.* Гібалы Касцюк. *Узрачны быў яе бацька: тоўсты, вісокі — бырыда на ўсі грудзі.* Ушакі Чэрык.

ГРУДЗІ́НА, -ы, *ж.* Грудзіна. *Грудзіна — самыя ўкусныя мяса.* Высокі Бор Краснап.

ГРУЗ, -а, *м.* Груз, цяжар, паклажа. *Так цяжка было падымаць груз, чуць*

*шлюньні сває ні пыдырвалі.* Гібалы Касцюк.

ГРУЗД, -а, *м. бат.* Грыб, грузд. *Ныбраў целый кошык груздоў.* Расна.

ГРУ́ЗКІЙ, *прым.* Грузкі. *Балота грузкыя, канём ехыць тут нільзя, загрузьніць.* Хвёдараўка Краснап.

ГРУ́ЗЬДЗІК, -а, *м.* Памянш. ад грузд. *Іду пы лясу, ляджу — грузьдзік сядзіць.* Бялішчына Мсцісл.

ГРУ́ЗЬДЗІЛА, -а, *ж.* Цуглі. *Бацька купіў грузьдзіла да вобраці.* Ташна Клім. *Максім, тваё грузьдзіла пырваныя.* Бязводзічы Мсцісл. *У етый музьдзечкі тоўстыя грузьдзілы.* Бяседавічы Хоцім. *Дай каню грузьдзіла.* Крычаў.

ГРУЗЬЛІ́ВЫЙ, *прым.* Гразкі. *Цяпер у восінь дарога грузьлівыя.* Хвёдараўка Краснап.

ГРУ́КЫТ, -у, *м.* Грукат, стук. *Нейкі грукыт чуіцца ны хаце.* Лешчынка Мсцісл.

ГРУ́НЕМ, *прысл.* Бегам. *Хлопчык пабег грунем.* Дзягавічы Клім.

ГРУ́НІЦЬ, *дзеясл.* Ушчуваць, прабіраць за што. *Кінь ты яе груніць, яна й так большы ня будзіць.* Шатава Мсцісл.

ГРУ́ЦА, -ы, *ж.* Густая крупеня, кашыца з пярловых круп. *Во зварыла груцы — аж ложку ні паверніш.* Парадзіна Мсцісл. *Мама, дай мне груцы! Я есьць хачу.* Усполле Раснян. *Нясіця груцу, будзім абедыць.* Кокатава Мсцісл. *Ну і нывырыла ты сёньня груцы.* Тур'я Чэрык.

ГРУ́ША, -ы, *ж.* 1. Груша, грушавае дрэва. *У нас у садзе тры яблыні і дзьве грушы.* Усполле Раснян. *Дзеўкі грушу садзілі.* Багацькаўка Мсцісл. 2. Груша, плод. *Я купіў гарніц груш і зыраз зьеў.* Шамава Мсцісл.

ГРЫБ, -а, *м.* Грыб. *Вунь грыб-мыхавік, а вунь яшчэ — глянь, скольні іх тут!* Пірагова Мсцісл. *Там у лесі ёсьць мясьціна, айдзе грыбы растуць.* Хвёдараўка Краснап.

ГРЫБА́ТКА, -і, *ж.* Пласт сала ў кормнага кабана на горле. *Быльшая грыбатка ў етыга кыбына.* Хвёдараўка Краснап.

ГРЫБІЛЬНО́, -а, *н.* Грабільна, цаўё ў граблях. *Тодар высік добрае грабільно.* Бязводзічы Мсцісл.

ГРЫБЫ́, -оў, *мн. л.* Губы. *Яму толькі баньку ў грыбы ўдзець дый весьці ны пыказ.* Хвёдараўка Краснап.

ГРЫБЯ́НЕЦ, -нца, *м.* Грабянец. *Вазьмі грыбянец ды прыгладзься троху.* Палуж Краснап.

ГРЫ́ВІНЬНІК, -а, *м.* Грыўня, 10 капеек. *З рубля толькі грывіньнік здачы далі.* Парадзіна Мсцісл.

ГРЫЗА́, -ы, *ж.* Навальніца, дождж з бураю. *Учора была страшныя грыза, пысырвала крышы с хат і гумін і павырвыла древы с кареньнім.* Бяседавічы Хоцім.

ГРЫ́ЗЛА, -а, *ж.* Рыла, пярэдняя частка твару. *Як пякнуў яму ў грызла, дык той і піракуліўсь.* Кокатава Мсцісл.

ГРЫЗО́ТА, -ы, *ж.* Сварка. *Вешна ў іх у сям'і грызота: то старэя міз сабою ні ладзюць, то мыладэя, і радзіміц іх ведыць, што яны ні падзелюць там.* Арцёмаўка Міласл.

ГРЫ́ЗЬЦІ, *дзеясл.* Грызці. *Коні грызуць хряпку.* Бялішчына Мсцісл. *Грызе іна маё серца.* Усполле Раснян.

ГРЫМАХВО́Н, -а, *м.* Грамафон. *У майго дзядзькі ёсьць грымахвон, дык я цяперь часта к яму хаджу слухыць, як ён іграе.* Бяседавічы Хоцім.

ГРЫМЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Грымець. *Гром грыміць, мылыдня бліскыіць — находзіць грыза.* Пірагова Мсцісл.

ГРЫМО́ТА, -ы, *ж.* Грымоты, гром. *Нейдзя далёка чуецца грымота.* Лешчынка Мсцісл.

ГРЫМЫДЗЯ́НСКІЙ, *прым.* Грамадзянскі. *Пысьля грымыдзянскай вайны ў Крычаві і Прапойску зьнялі шламбоны.* Куляшоўка Клім.

ГРЫМЯНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Выцяць, ударыць. *Як грымяну я цябе, дык сваіх ня ўзнаіш.* Хвёдараўка Краснап.

ГРЫМЯ́ЧЫК, -а, *м.* Грымак, штуршок, штурх. *Пяць грымячыкаў даў яму.* Хвёдараўка Краснап.

ГРЫ́ЎНЯ, -і, *ж.* Грыўня, 10 капеек. *За ўсё ета 'ддаў грыўню.* Хвёдараўка Краснап.

ГРЫ́ФА, -ы, *ж.* Грыф, шыйка ў скрыпцы. *Грыфа ў скрыпцы сьцёрлыся.* Палуж Краснап.

ГРЫ́ХВІЛЬ, -я, *м.* Грыфель. *Грыхвіль пулумаўсь, і пісаць нечым.* Шарэйкі Касцюк.

ГРЫЧА́НКА, -і, *ж.* 1. Грэцкая салома. *Каровам нільзя дываць многа грычанкі.* Хвёдараўка Краснап. 2. *заал.* Жук-кузька. *Грычанкі поўзаюць па жыці.* Там жа.

ГРЫШАВЫ́Й, *прым.* Грашавіты. *Піліп — чылавек грышавы: у яго заўсёды ёсьць капейка ў зыпасе.* Затоны Раснян. *Якую долю даці етыму дзіцяці: ‖ Ці хлібавую, ці грышавую, ‖ Трэцію вінчальную?* З нар. песні, М. Г. 6.

ГРЭ́БАВАЦЬ, *дзеясл.* Грэбаваць. *Што ты ета грэбаеш? Ня хочаш нічога й пакушаць.* Куркаўшчына Мсцісл.

ГРЭ́БІНЬ, -я, *м.* Грэбень. *Устаў грэбінь у стайно, я січас прясьць буду.* Татаркавічы Мсцісл.

ГРЭ́БЛЯ, -і, *ж.* Грэбля. *Праз грэблю выда цячэ.* Юркаўка Крыч. *Павыдка прырвала грэблю.* Новыя Капачы Мсцісл. *Мост і грэбля пубузываліся, ужо дзесіць гадоў ні правілі.* Гарадзец Крыч.

ГРЭ́БУВАНЬНЯ, -я, *н.* Грэбаванне. *Ні чыкала я ад цябе грэбуваньня мной — чым я горшая за ўсіх людзей?* Ушакі Чэрык.

ГРЭ́БУВАЦЬ, *дзеясл.* Грэбаваць. *Ён ня будзе грэбуваць, што дасі, то й ладна.* Добрае Мсцісл. *Людзі грэбуюць нямытай пасудай.* Юшкавічы Раснян. *Лепшыга ні знойдзіш, выходзь замуж за гэтыга, дос табе ім грэбуваць.* Ушакі Чэрык.

ГРЭ́БЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Грэбаваць. *Нешта, кум, ты стаў грэбывыць намі — ні разу і ні зойдзеш к нам.* Лешчынка Мсцісл.

ГРЭСЬЦЬ, *дзеясл.* Грэбці. *Сена ўжо высыхла, нада грэсьць.* Тульдава Раснян.

ГРЭХ, -а, *м.* Агрэх, памылка. *Я тут зьдзелыў грэх — ні так трэба було.* Хвёдараўка Краснап.

ГРЭЦКІЙ, *прым.* Грэцкі, зроблены з грэчкі. *Крупеня з грэцкіх круп завецца крушняй.* Крычаў. *Ныварылі крупені з салым і грэцкай кашы.* Пірагова Мсцісл.

ГРЭЦЦА, *дзеясл.* Грэцца. *Кот сеў на пыдваконьніцу і грэіцца на сонцы.* Белы Камень Бялынкав. *Пайдзём грэцца ў сталовыю.* Мсціслаў.

ГРЭЦЬ, *дзеясл.* 1. Грэць. *Кажух грэе добра.* Вербеж Чэрык. 2. Біць. *Ныстаўніца лінейкый грэла мяне добра ў лапу.* Хвёдараўка Краснап.

ГРЭЧКА, -і, *ж.* 1. *бат.* Грэчка. *У гэтым годзе грэчка буйна.* Касцюковічы. *Пасеіў грэчку, ніхай расьце.* Ракоўшчына Раснян. 2. Чахарда (гульня). *Будзім гуляць у грэчку.* Хвёдараўка Краснап.

ГРЮК, -а, *м.* Грукат, стук. *Як узьнімуць грюк, дык хоць ты з хаты ўцікай.* Барысавічы Клім. *Ня стук стучыць, ды па сенічках,* ‖ *Ня грюк грючыць, ды па новінькіх.* З нар. песні, М. Г. 1.

ГРЮКНУЦЬ, *дзеясл.* Грукнуць, стукнуць. *Грюкні яму ў вакно, ніхай выйдзець.* Белы Мох Мсцісл. *Стукну-грюкну ў вакошка,* ‖ *А ці сьпіш ты, жына.* З нар. песні, М. Г. 145.

ГРЮЧЭЦЬ, *дзеясл.* Грукаць, стукаць. *Як пычануць грючэць яны тут сваімі палкымі, дык гылыва кругом ідзець.* Стары Дзедзін Міласл.

ГРЯБЕЦ, -бца, *м.* Грабец. *Грябец з цябе — пачыны ні паднімець; дывай я буду грэсьць.* Куравічы Мсцісл. *Я буду глядзець, як чавён плувець,* ‖ *Я й буду глядзець, як грябцы грябуць.* З нар. песні. Багацькаўка Мсцісл.

ГРЯБЦІСЬ, грёбсца, *дзеясл.* Веславацца. *Хлопчыкі кыталісь ны чаўнох і грябліcь пачынамі.* Роськаў Касцюк.

ГРЯДЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад града. *Пыкыпайця мае грядычкі,*‖ *Пыкажыця мне пырядычкі.* З нар. песні, М. Г. 106.

ГРЯЗНА, *прысл.* Брудна, гразна. *На ворку дужа грязна, нада гной вывісьць ці яшчэ саломы пыдыслаць.* Арцёмаўка Міласл.

ГРЯЗНЫЙ, *прым.* Брудны, запэцканы. *Ой, ікая твыя цітрадзь грязныя!* Шарэйкі Касцюк. *Кохта пырваныя, спадніца грязныя, хуць ні глядзі.* Арцёмаўка Міласл.

ГРЯЗЬ, -і, *ж.* Гразь. *Ні мог ты етыя каўдобіны аб'ехыць — пы самыя ступіцы каткі ўвагнаў у грязь.* Касцюковічы. *Шлюпчыць пыд ныгамі грязь.* Слаўнае Мсцісл. *Уюны чорны, што грязь, іх і ні тлічыш у грязі.* Арцёмаўка Міласл.

ГРЯНАЯ НЯДЗЕЛЯ. Нядзеля, тыдзень пасля тройцы. *Гряная нядзеля ўсёядная: у сіряду і ў пятніцу німа посту. Ны гряной нядзелі нічога нільга віць і гырадзіць.* Гібалы Касцюк.

ГРЯЧЫХА, -і, *ж.* Грэчка. *Пыдай мне лучок, пайду касіць грячыху.* Бяседавічы Хоцім. *У кыляды дарога чорна — улетку будзіць урыджай ны грячыху.* Дубеец Касцюк.

ГУБА, -ы, *ж.* 1. Губа. *Коні скубуць зубамі, а каровы ізыком і губамі.* Бяседавічы Касцюк. *На губе села нейкыя былячка.* Гарманава Мсцісл. 2. Губка, трут. *Дзед дыстаў з зыпазухі кісет с тыбакыю, скалку, губу і вогніва, пылажыў губу ны скалку, а вогнівым стаў высікаць агонь.* Слаўнае Мсцісл. 3. Грыб на дрэве. *На гнілой бярёзі быльшая губа.* Слаўнае Мсцісл.

ГУБІЦЬ, *дзеясл.* Губіць. *Што ты дзелыіш, ты ж чылавека губіш сваім сьведчыньнім.* Вітрунь Касцюк.

ГУБКА, -і, *ж.* Мера палатна каля 4—5 сажань, на даўжыню сцяны. *Двынаццыць губык выткыла.* Маластоўка Краснап. *Я выткыла сабе тры губкі партніны.* Пірагова Мсцісл. *Аснывалі тры губкі красён.* Ельня Краснап. *Я аснывала дзьве губкі красён, ну пылытна будзіць аршын дзесіць.* Слаўнае Мсцісл.

ГУВАРІЦЬ, *дзеясл.* Гаварыць. *Ніхто ні гуваріў хлапцу дзелыць етыга, сваім надумым зрабіў.* Маластоўка Краснап. *У нас быў дзяк гымзацель — усё ў нос гуваріў.* Палуж Краснап. *На сходкі будуць гуваріць аб страхоўцы.* Бяседавічы Хоцім.

ГУГНЯВІЦЬ, *дзеясл.* Гугнявіць, невыразна гаварыць. *Гугнявіць сабе пад нос, што нічога ні пыняць.* Высокі Бор Краснап.

ГУГНЯВЫЙ, *прым.* Гугнявы. *Што ты гугнявіш, ік Марка гугнявый, кажы выразна.* Пірагова Мсцісл.

ГУГНЯВЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Гугнявасць. *Нешта ў яго ў насу ні ў пырядку, таму й гугнявысьць — лячыць нада.* Б. Хутары Краснап.

ГУГЫЛЬ, -я, *м. бат.* Куколь. *Гугыль расцець у жыці і ў аўсе.* Парадзіна Мсцісл. *У ваўсе быгата гугылю.* Брылёўка Краснап.

ГУГЫЛЬ, -ю, *м.* Гугаль, запечаная морква з лапшой, аздобленая, запраўленая маслам і яйкамі. *Сьпякем і мы гугыль, як у яўрейў.* Арцёмаўка Міласл.

ГУДЗЕЦЬ, *дзеясл.* Гудзець. *Пчолы дружна гудзяць кыла вульля.* Сохана Мсцісл. *Ны вічарінкі такей клум быў, што ў мяне і цяперь у вушох гудзіць.* Арцёмаўка Міласл.

ГУДЗЁШНІЦА, -ы, *ж.* Тоўстая кішка. *Вырызаў у кыбына гудзёшніцу.* Брылёўка Краснап.

ГУДЗІЦЬ, *дзеясл.* Гудзіць, абгаворваць каго. *Хацелі ды нашыя Веры сваты пріціць, ды злэя суседзі атраілі — загудзілі дзеўку.* Гарбавічы Касцюк. *На што ты мяне гудзіш?* Палуж Краснап.

ГУДУВАЛІЦ, -льца, *м.* Гадаванец, выхаванец. *Ета жа наш гудуваліц, ён жа змалку ў нас рос і ўжо во — жаніх!* Арцёмаўка Міласл.

ГУДУВАЛЬНІЦА, -ы, *ж.* Выхаванка. *Іна наша гудувальніца, мы ж яе махынькую ўзялі, як матка яе памёрла, дык іна ў нас і вырысла.* Арцёмаўка Міласл.

ГУДУВАНКА, -і, *ж.* Сваёй гадоўлі (пра жывёлу). *Ета карова — свыя гудуванка: самі ўскармілі і ўспаілі.* Арцёмаўка Міласл.

ГУДУВАНЬНЯ, -я, *н.* Гадаванне, выхаванне. *Яно гудуваньня дзяцей ціжалей усякый работы.* Арцёмаўка Міласл.

ГУДУВАЦЬ, *дзеясл.* Гадаваць, выхоўваць. *Матка, радзіўшы яго, ні знала, куды дзіваць і як гудуваць.* Арцёмаўка Міласл.

ГУЖ, -а, *м.* Гуж. *Узяўся за гуж — ні кажы, што нядуж.* Мсціслаў. *Гужы пырвалісь, і выехаць нечым.* Пухнава Раснян. *З кожы вырэзалі добрыя гужы.* Ташна Клім. *Гужы бываюць сырымятныя і вяроўчаныя.* Бязводзічы Мсцісл.

ГУЖО́ШНІЦА, -ы, *ж.* Тоўстая кішка. *Вылізла гужошніца.* Хвёдараўка Краснап.

ГУЗ, -а, *м.* Гуз, гузак. *Біліся яны, пакуль адзін аднаму не пысадзілі гузоў па шэсць.* Васілеўка Шумяц.

ГУЗЁЖНІЦА, -ы, *ж.* Тоўстая кішка. *Каб табе выпірла твыя гузёжніца!* Горкі Краснап.

ГУ́ЗІНА, -ы, *ж.* Гузік. *Гузіна вырвылыся.* Палуж Краснап.

ГУ́ЗІК, -а, *м.* Гузік. *Во расхрыстай ходзіць — ушый гузік ды зашпілісь!* Ушакі Чэрык. *У мяне атарвайся гузік.* Баброва Раснян. *У пальто ўшылі гузікі.* Крычаў. *У вёсках гузікі робяць з дрэва.* Бель Мсцісл.

ГУЗЫ́РЬ, -я, *м.* Гузыр, ніз снапа. *Мышы ўсі калосьсі ў сныпах пыат'елі, адны гузырі (а)сталісь.* Верамеева Чэрык.

ГУК, -а, *м.* Гук. *Гук нейкі чуцін.* Слабада Раснян.

ГУКА́НЬНЯ, -я, *н.* Гаворка, разгавор. *Ну і абрыдла мне яго гуканьня, проста слухаць не магу.* Ушакі Чэрык.

ГУКА́ЦЬ, *дзеясл.* Клікаць, зваць. *Зяць цісьця гукаў у госьці.* Сапрынавічы Мсцісл. *Дос табе гукаць, усіроўна ні пойдзіць.* Ушакі Чэрык. *Ны блыгавешчыньня дзеўкі і хлопцы вясну гукаюць.* Багацькаўка Мсцісл.

ГУКНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Клікнуць, пазваць. *Трэба іці гукнуць Ганну, хай вічэраць ідзе.* Ушакі Чэрык. *Што за сымыўпраўства! Я міліцыю гукну.* Пірагова Мсцісл. *Вы, кумычкі-галубычкі, сястрыцы мае, ‖ Як пойдзіця ў зялёны сад, гукніця мяне.* З нар. песні. Багацькаўка Мсцісл.

ГУ́ЛКА, *прысл.* Гулка, зычна. *Голыс гулка атдаецца, сероўна, як у бочкі.* Восаў Краснап.

ГУЛУБЕ́Ц, -а, *м.* Голуб. *Кот чуць гулубцоў не паеў.* Новыя Капачы Мсцісл.

ГУЛУВА́, -ы, *ж.* Галава. *Гулува мне сяньні баліць дужа, аж у ваччу цёмна.* Хвёдараўка Краснап.

ГУ́ЛЬКА, -і, *ж.* Снежка. *Хлопцы ў гулькі гуляюць.* Канава II Хоцім.

ГУЛЬЛІ́ВЫЙ, *прым.* Гуллівы, вясёлы, лёгкадумны. *Гульлівыя дзеўка: ні 'б чым ні думаіць, заўсягды сьмешкі, гульні.* Маластоўка Краснап.

ГУЛЬЛІ́ВЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Гуллівасць, легкадумная вясёласць. *Ны цябе нейкыя гульлівысьць сяньні ныйшла, места сабе ні найдзеш, пустабрех.* Горкі Краснап.

ГУЛЬНЯ́, -і, *ж.* Гульня, забава. *Персьцінь — вясёлая гульня.* Шарэйкі Касцюк. *Пацешна глядзець на гульні молыдзі.* Сохана Мсцісл. *Дачушычка мыя любыя, ‖ Нічым ты мне ні дакучыла, ‖ Ні гульнёю, ні работыю.* З нар. песні, М. Г. 47.

ГУЛЬТА́Й, -ыя, *м.* Гультай. *Гультай заўсягды сьпіць.* Бялішчына Мсцісл. *Гультай гультыя б'ець.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Гультай і пьяніца: работыць ляніцца, а гарелку — дык толькі пыдай.* Арцёмаўка Міласл. *Гультай — пустому двару хызяін.* Сохана Мсцісл.

ГУЛЬТА́ЙСТВА, -а, *н.* Гультайства. *Гультайства яго загубіць — хужы німа, калі чылавек ляніцца.* Арцёмаўка Міласл.

ГУЛЬТАІ́ШЧА, -а, *м.* Павеліч. ад гультай. *Гультаішча ты, чаму ты зы работу ні бярэсься?* Камень Раснян. *Каму вечыр, каму вечыр, А мне вечарышча.— ‖ Каму мілы, каму мілы, ‖ А мне гультаішча.* З нар. песні, М. Г. 27.

ГУЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Гуляць. *Калі ж, сват, будзім вясельля гуляць?* Дубеец Касцюк. *Дывай гуляць у люцыю ў вачко.* Краснаполле. *Дзеці гуляюць у лялькі.* Гібалы Касцюк. *Ні гуляй з катом, ато рыздрапыіць.* Парадзіна Мсцісл. *Будзім гуляць у жмуркі.* Шарэйкі Касцюк. 2. Быць свабодным, нічога не рабіць. *Я гуляю — нічога ня дзелыю.* Гібалы Касцюк. *Пазыч ты мне свой чыгун, калі ён у цябе гуляя.* Юркаўка Крыч. 3. Шпацыраваць. *Надзеўшы брыль, цётка пышла гуляць.* Пацкава Мсцісл. *Ні разу ня пайду гуляць.* Іванаўка Хоцім.

ГУМЕ́НІШЧА, гумні́шча, -а, *н.* Гумнішча, места пад гумном ці каля гумна. *Гумно згарэла — гуменішча зысталось.* Хвёдараўка Краснап.

ГУМЕ́НЬНІК, -а, *м.* Наглядчік над гумном. *Бацька — добрый гуменьнік. Ныняў дзеда-гуменьніка.* Палуж Краснап.

ГУМНО́, -а, *н.* Гумно. *Кажуць, што Васіль пыдпаліў Піліпыва гумно.* Канічы Касцюк. *Ны маім гумне раскрыўся вільчык.* Маластоўка Краснап. *Сёліта ў нас поўна гумно хлеба.* Камень Раснян. *Прінясі з гумна саломы.* Слаўнае Мсцісл. *Пашлі мылаціць на гумно.* Крычаў.

ГУ́НІЦЬ, *дзеясл.* Ганіць. *Ежалі етый аполык гуніць, то ўжо ні знаю, якей вам і прівесьць.* Б. Хутары Шумяц.

ГУ́НЬКА, -і, *ж.* Гунька, пакрывала. *Вазьмі гуньку і накрый кыня, ато ён упацеў.* Пацкава Мсцісл. *Я накрылась гунькаю.* Канава I Хоцім. *Прінясі гуньку накрыць кыня — жупаном ні нада, ато ён ськівіць і ўтопчыць у гной.* Арцёмаўка Міласл. *Матка выткыла новую гуньку.* Бель Мсцісл. *Накрый кыня гунькыю.* Палуж Краснап.

ГУ́РА, -ы, *ж.* Гура, гурба снегу. *Цяшка каню весьці церас етыя гуры.* Гарадзец Бабр.

ГУРО́К, гурка́, *м.* 1. *бат.* Гурок. *Сёліта нешта гуркоў мала, а ўсё больш пустацьвет.* Пірагова Мсцісл. *Пылажы ў кашэль гуркоў з пару.* Тур'я Чэрык. *Мы на зіму капусты пыставілі і гуркі пысалілі ныпылавіну з быклыжанымі.* Арцёмаўка Міласл. 2. Вузел на пузе. *Пуга з гурком ны канцы.* Хвёдараўка Краснап.

ГУРТ, -а, *м.* Гурт. *Тут купец нейкі ныкупляў цэлый гурт кароў, дык ішчыць, каго б ныняць пыгнаць іх. Яблыкі стрясьлі, сыбралі ды ў вадзін гурт ссыпалі; там і летнік і антонуўка.* Арцёмаўка Міласл.

**ГУРТО́К**, -тка, *м.* Памянш. ад гурт. *Сыбраліcь хлопцы ў гурток ды рыскязывалі ўсякія страхі.* Ушакі Чэрык.

**ГУСА́К**, -а, *м.* Гусак. *Ны маё бяздольля і пятух ні пяець і гусак ні крычыць.* Багацькаўка Мсцісл.

**ГУСІ́НЫЙ**, *прым.* Гусіны. *Ні хачу я спаць ны сяньніку, дайця мне пірнат з гусіныга пер'я.* Ушакі Чэрык.

**ГУ́СТА**, *прысл.* Густа. *Густа сеій, да редка ўзышло.* Андраны Раснян.

**ГУСТЫ́Й**, *прым.* Густы. *Крупеня сяньні жытка, а капуста дужа густа.* Арцёмаўка Міласл. *Тут лес дужа густы, проста неміріч некыя.* Цірэні Раснян.

**ГУ́СЫЧКА**, -і, *ж.* Памянш. ад гусь. *Ой ляцелі гусычкі церіз сад, || Ды крыкнулі, гукнулі на ўвесь сад.* З нар. песні. Зарэчча Мсцісл.

**ГУСЬ**, -я, *м.* Гусь. *Я прыдаў гуся зы пяць рублёў.* Лешчынка Мсцісл. *І навошта вы рызьвялі столькі птаства розныга: і куры, і гусі, і вуткі?* Ушакі Чэрык.

**ГУ́СЬЛІ**, -яў, *мн. л.* Гуслі, струнны музычны інструмент. *Ен іграў у гусьлі. Скымарохі на гусьлях іграюць.* Шарэйкі Касцюк. *Ні хадзі, Ганнычка, сы вячор на двор, || Ні слухай, Ганнычка, звонкых гусіль.* З нар. песні.

**ГУ́СЬЦІНЬКА**, *прысл.* Памянш. ад густа. *Міла глядзець, як жыта сёліта ўсходзіць: роўнінька, гусьцінька.* Бяседавічы Хоцім.

**ГУСЬЦЬ**, *дзеясл.* Гусці, плакаць. *Як нычыла гусьць, аж на тым канцы чутна было.* Старае Сяло Мсцісл. *Годзі табе гусьць, адзін адурій усю хату, хуць ты вушы затыкай.* Бяседавічы Хоцім.

**ГУ́ТАРКА**, -і, *ж.* Гутарка, разгавор [размова]. *Плойма ўсі гутаркі вынісла.* Мядвёдаўка Краснап.

**ГУ́ТАРЫЦЬ**, *дзеясл.* Гутарыць, гаманіць, гаварыць. *У хаці-чытальні гутарылі пра заветы Леніна.* Сохана Мсцісл.

**ГУТАРЭ́ЛІ**, -яў, *мн. л.* Гутарэлі, гушкалка. *Дзеці гушкаюцца на гутарэлях.* Камароўка Крыч. *Тата, нычапі мне гутарэлі.* Горлава Раснян.

**ГУТА́ЦЦА**, *дзеясл.* Гутацца, гушкацца. *Хлопцы, дывайці сыгнём гэсты сук ды будзім гутацца.* Ушакі Чэрык. *Гуталіся, пакуль нагуталіся.* Палуж Краснап.

**ГУТА́ШЫЦЦА**, *дзеясл.* Гушкацца. *Дзеці пайшлі гуташыцца на рэлях.* Палуж Краснап.

**ГУТО́РІЦЬ**, *дзеясл.* Гутарыць, гаварыць. *Сышліся бабы лі калодзіжа й гуторяць пуўдня.* Горкі Краснап.

**ГУ́ЦКА**, -а, *м.* Надворная свіння, кабан. *Улетку гуцка сам сябе корміць.* Барысавічы Клім.

**ГУЧА́ЦЬ**, *дзеясл.* Гучаць. *Тоўстыя струна будзіць даўжэй гучаць, чым тонкыя.* Бяседавічы Хоцім.

**ГУ́ЧНА**, *прысл.* Гучна. *Гучна зьвінелі ў лясу тыпары.* Слаўнае Мсцісл. *Дзеўка гучна адбіваіць шаг, сероўна ік сылдат.* Восаў Краснап.

**ГУ́ШКАЛКА**, -і, *ж.* Гушканка. *Мы гушкаліcь ны гушкалцы.* Глінь Касцюк.

**ГУ́ШКАЎКА**, -і, *ж.* Гушканка. *Дзеці зрабілі гушкаўку і гушкаюцца.* Машавая Бялынкав.

**ГУ́ШЧА**, -ы, *ж.* 1. Каша з малаком. *Елі гушчу.* Восаў Краснап. 2. Гушча, густата. *Гушчу з міскі павыцягівылі, а юшка зыстылася.* Гібалы Касцюк. 3. Густы лес, немарач, гушчар. *Залезьлі мы ў самыю гушчу, што й ні вылізьць, усі рукі пыбдзірялі ап кусты.* Высокі Бор Краснап.

**ГЫВАРІ́ЛКА**, -і, *ж.* Трыбуна. *Хлапец ні пубыяўсь, палез ны гыварілку і дывай усіх лаіць, і дывай чысаць.* Палуж Краснап.

**ГЫВАРІ́ЛНЯ**, -і, *ж.* Трыбуна. *Ужу гыварілню дзелыюць к празніку, будуць гываpыць зь яе.* Клімавічы.

**ГЫВАРІ́ЦЬ**, *дзеясл.* Гаварыць. *Два гыласы ны пірабой нешта ціха і скора гываpілі, і ён, сколькі ні пріслухывыўся, ніяк ня мог рызыбраць, аб чым яны шыпталісь.* Арцёмаўка Міласл. *Гывapі паціху, ато хтонібудзь пачуіць.* Лешчынка Мсцісл. *Я ўсё пыняў, што гываpіў учыціль.* Бяседавічы Хоцім.

**ГЫВАРО́К**, -рка, *м.* Гаварун, чалавек, які любіць гаварыць, умешвацца ў чужыя разгаворы. *Эйш, гыварок знайшоўсь. Тваё дзела — з ложкі ды ў рот.* Хвёдараўка Краснап.

**ГЫВАРУ́ШКА**, -і, *ж. бат.* Гаварушка, грыб, летняя апенька. *Кыла пнёў було многа гыварушык. Я перша падумыла, што ета апенкі; толькі гыварушкі смакым ня хужу апенык.* Арцёмаўка Міласл. *Ныбрала гыварушык, нада зварыць.* Хвёдараўка Міласл.

**ГЫВАРЫ́ЦЬ**, *дзеясл.* Гаварыць. *Яны вон як: пызыдзірaлі насы і гыварыць ні хочуць.* Ушакі Чэрык. *Калі скызалі ў вочы праўду, дык яму й зыцяло гыварыць.* Маластоўка Краснап.

**ГЫВЯ́ДА**, -ы, *ж.* Скаціна ў статку. *Гывяду пастух пусьціў ны аржанішча.* Горкі Краснап.

**ГЫВЯ́ДЗІНА**, -ы, *ж.* Мяса, ялавічына. *У нас гывядзіна ёсьць, мы ж бычка свайго резылі, зытыўкаць яшчэ ёсьць чым.* Арцёмаўка Міласл. *Кошка зьела гывядзіну.* Іванаўка Хоцім.

**ГЫГЫТА́НЬНЯ**, -я, *н.* Гагатанне, гусіны крык. *Здалёку чутно было гыгытаньня гусей.* Пірагова Мсцісл.

**ГЫДАНІ́НА**, -ы, *ж.* Угадванне, гаданка. *Ета толькі гыданіна, а што будзіць — наперад ні знаім.* Слаўнае Мсцісл.

**ГЫДА́ЦЬ**, *дзеясл.* Гадаць, варажыць. *Дзеўкі ў кыляды гыдалі.* Чыгрынаўка Раснян.

**ГЫДУВА́НЬНЯ**, -я, *н.* Догляд. *Ну якое ета гыдуваньня, калі ён* (кабан) *на вуліцы бегыіць, такоя зь яго і сала будзіць.* Бяседавічы Хоцім.

**ГЫДУВА́ЦЬ**, *дзеясл.* Даглядаць, карміць. *Як сталі яго хыраwо гыдуваць, дык і стаў жырець.* Бяседавічы Хоцім.

**ГЫДУНЕ́Ц**, -нца, *м.* Выхаванец. *Етый хлопчык — гыдунец вучыцеля, таму ён такій совісный.* Слаўнае Мсцісл.

**ГЫЙДЫМА́КА**, -і, *м.* Гайдамака. *Ехылі гыйдымакі на серым сыбакі.* Прыказка. Багацькаўка Мсцісл.

ГЫ́КАЦЬ, *дзеясл.* Крычаць. *Ты ня гыкый ны яе, яна ні віныватыя.* Васілёўка Хоцім.

ГЫ́КЫЛА, -а, *м.* Смяшлівы чалавек. *Гыкыла ты: усё ыгы ды ыгы!* Хвёдараўка Краснап.

ГЫЛАГРЭ́ЙКА, -і, *ж.* Фуфайка, вязаная спартсменская вопратка. *Надзеў гылыгрэйку, дык цяпло, як у кажусе.* Маластоўка Краснап.

ГЫЛАДО́ЎЛЯ, -і, *ж.* Галадуха, галодны час, пара. *Ну і была сёліта пы вясьне гыладоўля і людзям і скаціне!* Пірагова Мсцісл.

ГЫЛАЛО́БІНА, -ы, *ж.* Галамоўза. *Звесій сваю гылалобіну над кнігый і ні відзіць, што курі пырізгрïблі гряды.* Высокі Бор Краснап.

ГЫЛАПЛЁ́КА, -і, *ж.* Подбіўка ў верхняй кашулі або сукенцы. *Нада ў сарочку гылаплёку, каб з гэсткый було.* Хвёдараўка Краснап.

ГЫЛАПЛЁ́ЧКА, -і, *ж.* Кашуля з гылаплёкай, подбіўкай. *Сшыла яму гылаплёчку.* Хвёдараўка Краснап.

ГЫЛАСІ́ЦЬ, *дзеясл.* Галасіць, плакаць з прычытаннем па пакойніку. *Дос вам гыласіць па ём, ён ужу чылавек старый, урэмя яго прішло пуміраць.* Бяседавічы Хоцім. *Як памёрла дычка Матруніна, дык іна гыласіла на ўсю хату.* Лешчынка Мсцісл.

ГЫЛАСНЫ́Й, *прым.* Галасісты. *Гылысная дзеўка: як зыпяе, дык у тым канцы дзярэўні чутна.* Палуж Краснап.

ГЫЛАСО́К, -ска, *м.* Памянш. ад голас. *У яе такій дзілікатный гыласок.* Слаўнае Мсцісл. *А ці ў лесі зыблудзіла — || 'тгукнісь гыласочкым, || Кылі ў вадзе зытапіла — || Пріплыві к біряжочку.* З нар. песні, М. Г. 91.

ГЫЛАЎНЫ́Й, *прым.* Галаўны, што адносіцца да галавы. *Я пыцірала дзьве гылаўных шпількі.* Добрае Мсцісл. *Купіла сабе гылаўны гребінь.* Пухнава Расням.

ГЫЛГЫТА́ЦЬ, *дзеясл.* Гаварыць галасна многім зара́з. *Мужыкі гылгыталі, як ны бызары.* Бялынкавічы.

ГЫЛЫВА́, -ы, *ж.* Галава. *Гылыва мыя кучмастыя. Гылыва мыя ўнілася.* Бялынкавічы. *Німа гдзе яму гылавы пріхінуць — сірыта ён.* Арцёмаўка Міласл. *Клопыт мне вялікі, што ў цябе баліць гылыва — хай баліць!* Слаўнае Мсцісл.

ГЫЛЫВАРЭ́З, -а, *м.* Галаварэз. *Во гылыварез: то дзяцей паб'ець і ўцякець, то ўсі гряды патрець і гуркі вырвіць, то ў хаці што-нібудзь пылумаіць — хуць ты памрі зь ім.* Арцёмаўка Міласл.

ГЫЛЫВА́ШКІ, -шык, *мн. л.* Галовы, узгалоўе, месца ў пасцелі, дзе ляжыць галава. *Пыкладзі мне што-небудзь у гылывашкі. У гылывашках хворыга дзіцёнка сядзела яго матка.* Гібалы Касцюк.

ГЫЛЫСЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Галасаваць. *Кінь ты баламуства; раз пыстынавілі дык нечыга цяперь атказывыцца, сам гылысываў.* Арцёмаўка Міласл.

ГЫЛЫТВА́, -ы, *ж.* Галота, беднатa. *На тым баку Гаўрыленкі адна гылытва жывець.* Гаўрыленка Бялынкав.

ГЫЛЯ́Р, -а, *м.* Цырульнік. *Гыляр сь цябе плахей — парезыў мне ўвесь пыдбарёдык.* Палуж Краснап.

ГЫЛЯ́РА, -ы, *ж.* Мажара, воз, прыстасаваны вазіць сена ці салому. *Паехыў на гыляры.* Хвёдараўка Краснап.

ГЫЛЯ́С, -а, *м.* Галяс, яблычкі на дубовых лістах, з якіх робяць чарніла. *Пайшлі ў лес гылясыў ныбраць на дубох, чарніла надзелыць.* Высокі Бор Краснап.

ГЫМА́Н, -а, *м.* Торбачка, машна на грошы. *Што ў тваім гымане ёсьць?* Горка Краснап.

ГЫМАНЕ́Ц, -нца, *м.* Памянш. ад гаман. *Ладный у цябе гыманец.* Хоцімск.

ГЫМАНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Гаварыць. *Я сёньня гыманіла з Хадоскай.* Галоўчыцы Калінiншчына. *Цыц! Ні гымані.* Кокатава Мсцісл. *Мы с табой гамонім, а ў печы вычгырыла.* Іванаўка Хоцім.

ГЫМА́РНЯ, -і, *ж.* Гамарня, шумнае месца. *Сяньшнія сходка была ныстыяшчыя гымарня: усі крічалі, а да толку ні дайшлі.* Слаўнае Мсцісл.

ГЫМЗА́ТКА, -і, *ж.* Жанчына, што гаворыць у нос. *У гымзатыга была жонка, яе тож звалі гымзаткый, хоць іна і гуварыла, як усе.* Палуж Краснап.

ГЫМЗА́ТЫЙ, *прым.* Гамзаты, чалавек, што гаворыць у нос. *У Палужжы, гадоў дзесіць таму нызад, жыў дзяк гымзаты: ўсё ў нос гыварыў.* Палуж Краснап.

ГЫМЗАЦЕ́ЛЬ, -я, *м.* Гамза, гамзаты. *Мурмочыць у нос, ік гымзацель ікей.* Горкі Краснап.

ГЫМЗАЦЕ́НЬ, -я, *м.* Гамза, гамзаты. *Хто яго рызьбярэць, што гаворіць гымзацень етый.* Хвёдараўка Краснап.

ГЫНАРЫ́СТЫЙ, *прым.* Ганарысты. *Дужа ўжо ты гынарыстый стаў, глядзі, каб не пазьбілі табе троху прыці.* Пірагова Мсцісл. *Ён дужа гынарысты, гыварiць ня хоча.* Паходавічы Чэрык.

ГЫНАРЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Ганарыцца. *Як зьезьдзіў у Ленінград, дык і гынарыцца пычаў, дайжа ня хочыць здароўкыцца.* Пірагова Мсцісл.

ГЫНДЛЯ́Р, -а, *м.* Гандляр. *У нашый вёсцы ёсьць гындляр.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Зайтра ў суседній дзярэўні кірмаш, будзіць многа гындляроў.* Курманава Мсцісл.

ГЫНЧА́К, -а, *м.* Ганчак, гончы сыбака. *З естыга шчынка вырысьціць харошы гынчак лісіц гыняць.* Слаўнае Мсцісл.

ГЫНЧА́Р, -а, *м.* Ганчар. *У Крычаўскім раёне шмат гынчароў.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Гынчар прыдаў усі сваe гаршкі.* Прытычына Крыч.

ГЫНЧА́РКА, -і, *ж.* Ганчарка, гатунак махоркі самасейкі. *Пасеій гынчарку. Твыя гынчарка дужа сьмярдзіць — курыць нельга.* Палуж Краснап.

ГЫНША́К, -а, *м.* Ганчак, гончы сыбака. *У Піліпа добры гыншак, дзе ён яго дыстаў?* Хвёдараўка Краснап.

ГЫНЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Ганяцца. *Гыняецца за сыбакамі цельный дзень, як ачмурелый.* Журбін Бялынкав.

ГЫНЯ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Ганяць. *Раньшы гынялі ны ранкі, а цяпер будуць гыняць на ўдзёнкі.* Хвёдараўка Краснап. *Ён ужу ладный хлопіц, яму ўжу пыхаць пыра, ня тoлькі кароў гыняць.* Арцёмаўка Міласл. *Гыняйце скаціну ў равок, там зыцішней будзе.* Ляхі Чэрык. *Пастух гоніць статык у поля.* Кокатава Мсцісл. 2. Выворваць бульбу. *Сёньня гыняў бульбу.* Хвёдараўка Краснап. 3. Асыпаць сошкай бульбу. *Я прынёс рыспашнік гыняць бульбу. Паеду гыняць бульбу, ужо вялікыя вырысла.* Людагошч Мсцісл.

ГЫПА́Й, -я, *м.* Суконная жаночая вопратка, кофта. *Кравец пашыў бабі гыпай.* Хацілавічы Крыч.

ГЫРА́, -ы, *ж.* 1. Гара, высокае месца, узвышша. *Вялікыя гыра была, зьехыць нільга было, а цяпер скыпалі, дык луччы.* Сапрынавічы Мсцісл. *Пуня стыяла ны гаре.* Горлава Раснян. *Дзяржы крепка вожкі, каб конь ні пабег з гары.* Слаўнае Мсцісл. 2. Гара, месца на хаце ад столі да страхі. *Калі ідзець дождж, то выда праз крышу цякець ны гару.* Смолькаўская Буда Бялынкав. *Верна, ліжак зываліўсь ны гаре, што дым круціць у печы.* Слаўнае Мсцісл.

ГЫРАГУЛЁНЫК, -нка, *м.* Жаніх (жартаўліва). *Дазвольце к вашай гырагулі нашыму гырагулёнку падсесьць.* Горка Краснап.

ГЫРАГУ́ЛЯ, -і, *ж.* Нявеста (жартаўліва). *Яна ўжо гырагуля.* Горка Краснап.

ГЫРАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Гарадзіць, рабіць агароджу. *Нада гарод гырадзіць, ато сьвіньні лазюць.* Шчулканы Раснян. 2. Гаварыць без толку. *Дос табе гырадзіць глупства, пакінь!* Слаўнае Мсцісл.

ГЫРАЗДЬБІ́К, -а, *м.* Чалавек, што робіць агароджу, гародзіць. *Ну і гырадзьбік зь цябе, во зыгырадзіў дык зыгырадзіў!* Палуж Краснап.

ГЫРА́ЧЫЙ, *прым.* Гарачы. *Дужа гырачы блін. Ні хвытайця такіх гырачых, ніхай трошку прычахнуць.* Куркаўшчына Мсцісл. *Бяры кляшчоткымі гырачыя камні і кідай у бочку з вадой.* Хвёдараўка Краснап.

ГЫРБА́ТА, -ы, *ж.* Гарбата, чай. *Засып у вар гырбаты.* Бялішчына Мсцісл. *Налі мне гырбаты.* Шумячы.

ГЫРБА́ТКА, -і, *ж.* Гарбатая жанчына. *У яго адна дычка, і тая гырбатка.* Палуж Краснап.

ГЫРБА́ТЫЙ, *прым.* Гарбаты. *Нада пірыслаць под у печы, ато гырбатый стаў.* Хвёдараўка Краснап.

ГЫРБА́Ч, -а, *м.* Гарбун, гарбаты чалавек. *Па вуліцы пайшоў нейкі гырбач.* Палуж Краснап.

ГЫРГА́РА, -ы, *ж.* Няскладная з выгляду, вялізная [рэч, прылада, істота]. *Піліп за жонку ўзяў нейкую гыргару: ростым пад неба, а худая-прыхудая.* Палуж Краснап.

ГЫРІ́ДЖАНІН, -а, *м.* Гараджанін, жыхар горада. *Піряехыў у горыд і забыўсь на дзіреўню — стаў гыріджанін.* Б. Хутары Краснап.

ГЫРІДЧА́НКА, -і, *ж.* Гараджанка. *Зося адзелысь пы-гырадзкому, ад гырідчанкі ні 'тлічыш.* Высокі Бор Краснап.

ГЫРКАВУ́ХА, -і, *ж.* Горкая, гарэлка. *Дос табе смыктаць етую нішчасьніцу, гыркавуху.* Лешчынка Мсцісл.

ГЫРКА́ВЫЙ, *прым.* Гаркавы, гаркаваты на смак. *Ягыды калініцы гыркавы, паетыму іх ядуць узімку, калі яны памерзнуць.* Пірагова Мсцісл. *Нешта, кумычка, капустка твыя гыркава.* Лешчынка Мсцісл.

ГЫРКА́Ч, -а, *м. бат.* Горкая трава. *Вытры кыня гыркачом, каб мухі ня елі. Ні касі гыркачу — коні ета сена есьць ня будуць.* Горкі Краснап.

ГЫ́РКЫЛА, -а, *м.* Чалавек, што агрызаецца, гыркае. *Ні гывары ты зь етым гыркылым.* Хвёдараўка Краснап.

ГЫРКЫТА́, -ы, *ж.* Гаркатá, горкасць. *Ну і гыркыта твае яблыкі, што і есьць нільзя.* Лешчынка Мсцісл.

ГЫ́РКЫЦЬ, *дзеясл.* Гыркаць, крычаць, лаяцца. *Чаго ты ны яе гыркыіш, ці ж іна вінныя?* Вербеж Чэрык.

ГЫРЛА́Ч, -а, *м.* Гарлач, збанок на малако. *Карова дыла два гырлачы мылыка.* Палуж Краснап. *Пыдаіла карову, пірицадзіла пыстыялку ў гырлач і троху ныліла ў міску дзіцям.* Арцёмаўка Міласл. *Кот хацеў паесьць сьмітану, ды ўмесьці з гырлычом на мост зваліўся.* Бяседавічы Хоцім. *Адзін поўгырлыча пыстыялкі зьеў.* Собалеўка Калінінщчына.

ГЫРЛА́ЧЫК, -а, *м. бат.* Вадзяніца жоўтая. *Палез у рэчку ды нырваў гырлачыкыў.* Палуж Краснап.

ГЫРЛЫПА́Н, -а, *м.* Гарлапан, чалавек, які многа гаворыць. *Гырлыпану етыму ніяк глоткі ні запікнеш.* Хвёдараўка Краснап.

ГЫРЛЯ́НКА, -і, *ж. бат.* Гарлянка, трава-жывучка. *Як горла баліць, знайдзі ны мяжы цьвяток гырлянкі.* Хвёдараўка Краснап. *Гырлянка — цьвіцець красным цьветым. Бабы зьбіраюць яе і кажуць, што іна пымыгаіць, калі горла абкладзець.* Пірагова Мсцісл.

ГЫРМА́ТА, -ы, *ж.* Гармата. *Ціперь слова «гырмата» редка пачуіш, усё пуліметы ды пушкі сталі.* Горкі Краснап.

ГЫРНЫСТА́Й, -я, *м. заал.* Гарнастай. *Іван гырныстая пасткый пыймаў.* Белы Мох Мсцісл.

ГЫРСА́ЎКА, -і, *ж.* Вязаная з воўны хустка. *Гануля зьвізала новую гырсаўку.* Глінь Касцюк. *Гырсаўку зьвяжы, цяплей будзя.* Мышні Раснян.

ГЫРЦА́ЦЬ, *дзеясл.* Гарцаваць. *Гырцая па полі.* Гусарка Клім.

ГЫРЫДЗЬБА́, -ы, *ж.* Гарадзьба, агароджа. *Гырыдзьба пылымалысь.* Іванаўка Хоцім.

ГЫРЫДЧА́НІН, -а, *м.* Гараджанін, жыхар горада. *Ты ўжо цяпер саўсім ад дзярэўні адбіўся — гырыдчаніным стаў.* Пірагова Мсцісл.

ГЫРЯМЫ́ЧНЫЙ, *прым.* Гаротны, гарун, гарапашны. *Жыцьцё-быцьцё мае гырямычныя: хуць ба сьмерць скарей прішла.* Бяседавічы Хоцім.

ГЫРЯ́ЧЫЙ, *прым.* Гарачы. *Ні нясі гырячый хлеб на двор, пылажы ны вакно, дык ён і там будзіць прыстуджацца.* Арцёмаўка Міласл. *Налі мне гырячый крупені,*

*ато я дужа зьмерз і есьць хачу.* Залькова Раснян.

ГЫСПАДЫ́НЯ, -і, *ж.* Гаспадыня. *Я ў сваёй хаці сыма сабе гыспадыня: што хачу, то і раблю.* Лешчынка Мсцісл.

ГЫСПЫДА́Р, -а, *м.* Гаспадар. *Гыспыдар забіў к кылядым вапрука.* Юшкавічы Раснян.

ГЫСПЫДА́РКА, -і, *ж.* Гаспадарка. *Для вылічэньня пыдатку треба добра ведаць умовы гыспыдаркі.* Канічы Касцюк.

ГЫСЬЦІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Гасцяваць, быць у гасцях. *Іван паехыў гысьцівацъ, ды нешта доўга гасцюя.* Маластоўка Краснап.

ГЫТЫЛЬ, -я, *м.* Каршэнь, карак. *Янка як даў Марылі ў гытыль, дык яна аж пывалілыся.* Маляцічы Крыч.

ГЭ, *выкл.* Гэ. *Гэ, на ўсё трэба звыканьня. Во пажыві трохі з намі і ўбачыш, што мы людзі, як усе.* Ушакі Чэрык. *Гэ, які ты прыткей!* Шыркі Раснян.

ГЭ́БІЛЬ, -я, *м.* Гэбель, гэблік. *Дошкі сукуватыі, гэбіль ні бярець суччa, нада тыпаром іх пазьбіць, а тады гэблім.* Маластоўка Краснап.

ГЭ́БЛІК, -а, *м.* Гэблік. *Падай мне гэблік, трэба трохі пагладзіць гэтую дошку.* Мсціслаў.

ГЭ́БЛЯ, -і, *ж.* Гэбель. *Пыдай сюды гэблю. Гэбля затупліныя, ні бярець дайжа ліпы.* Хвёдараўка Краснап.

ГЭ́ГЫН, -а, *м.* Даўгавязы мужчына. *Вунь пашоў гэгын.* Горкі Краснап.

ГЭЙ, *выкл.* Гэй. *Гэй, хлопец, ці ні бачыў тут коні, бягучы?* Янава Раснян.

ГЭ́НДРЫК, -а, *м.* Скокі ад радасці. *Пиліп, як пачуў гэта, дык аж гэндрыка пусьціўся скыкаць.* Маластоўка Краснап.

ГЭ́РМАН, -а, *м.* Спраўны чалавек, які смела, громка гаворыць. *Ого, ты ў нас гэрман.* Хвёдараўка Краснап.

ГЭ́РЭСТНА, *прысл.* Непрыемна. *Гэрэстна пірыбарсывыць лапці.* Хвёдараўка Краснап.

ГЭ́СТАК, *прысл.* Гэтак, так. *Ох! Хоць бы скарэй пакон прышоў — гэстак жа цяжка жыць хвораму на сьвеці.* Ушакі Чэрык.

ГЭ́СТЫЙ, *займ.* Гэты. *Мамка, ці вялікыя гэста птушка дзяркач? З гэстай распусьніцай дык чыстай дзяўчыні і гыварыць стыдна. Гэсты ж чылавек жывець, як пустэльнік: ні ён ні к каму ні ходзіць, ні к яму ніхто.* Ушакі Чэрык.

ГЭ́ТА, *займ.* Гэта. *Вязьзя — гэта дно саней.* Дрыбін. *Гэта ж у нас у хаце тыкая духыта, што можна ваўрэць.* Касцюковічы.

ГЭ́ТАК, *прысл.* Гэтак, так. *Ніякыга з цібе пуцьця ні будзіць у жызьні — во гэтак і будзіш капціць неба.* Ушакі Чэрык.

ГЭ́ТКІЙ, *займ.* Гэтакі. *Гэткай размовы я і слухаць ні хачу.* Ушакі Чэрык. *Скуль гэта ныбралысь гэткыя планіда (дружына дзяцей) і бяжыць па вуліцы?* Маляцічы Крыч. *Гэткія зьнівагі дык я ў жыцьці ня чуў.* Добрае Мсцісл.

ГЭ́ТЫЙ, *займ.* Гэты. *Гэты бытрак прыяць свайму гыспыдару.* Кокатава Мсцісл. *Гэтыга шчупыка я забіў высьцямі.* Вародзькава Крыч. *Гэта мазь вельмі літуча.* Ушакі Чэрык. *Гэта сена нельга класьць у пуню, у ім яшчэ ёсьць волкысьць.* Крупня Касцюк. *Века стаіць у гэтым куту.* Тур'я Чэрык.

# Д

ДА, *прыназ.* Да. *Да етыга часу я быў у кыпірацыі.* Мсціслаў.

ДА *злучн.* Ды. *А ці многа нас? Я да ты, да ішчэ Зося — вось і ўсе.* Вярбоўка Раснян.

ДА, *часц.* Ды. *Да не, тваё плацьця ні запэцкынае.* Пірагова Мсцісл.

ДАБІ́ЦЬ, *дзеясл.* Дабіць, забіць на смерць. *Нада яго дабіць саўсім, штоб большы ня мучыўся, усё ж роўна ён цяпер ня выжывець.* Бяседавічы Хоцім.

ДАБРО́, -а, *н.* 1. Дабро, маёмасць, каштоўнасць. *Падумыіш, еткі ўлыдарь нашоўся на чужоя дабро.* Слаўнае Мсцісл. *Чылавек кругом голый, а хваліцца сваім дабром.* Міцькаўшчына Мсцісл. 2. Дабро, збожжа. *У Хвядоса пярун спаліў гумно з дабром.* Лешчынка Мсцісл.

ДАБРО́ДЗІ, -ія, *м.* Дабрадзей. *Дабродзі знайшоўся — чужым добрым пымыгаць!* Жалезніца Крыч.

ДАБЭ́РА, -ы, *ж.* Гатунак бульбы. *Сёліта мы купілі дабэры ны, бзавод, кажуць, што ета ладныя курдопа.* Стары Дзедзін Міласл.

ДАВЕ́ДЫВАЦЦА, *дзеясл.* Наведваць, адведваць. *Ні забывай нас, даведывыйся хуць калі. Спасібкі йму, ні зыбываіць нас, даведывыйцца.* Горкі Краснап.

ДАВЕ́ДЫЦЦА, *дзеясл.* 1. Даведацца, адведаць, наведаць. *Трэба даведыцца хворыя суседкі.* Сохана Мсцісл. 2. Даведацца, пачуць. *Даведыйся ў горыдзі, па чом хлеб.* Там жа. *Даведыліся мы, што ты кыня прідаеш.* Горкі Краснап.

ДАВЕ́СЬЦЬ, *дзеясл.* 1. Давесці, растлумачыць. *Ён ўсё ета мне давёў: адзе жывець етый нычальнік, як яму аба ўсім етым раскызаць.* Арцёмаўка Міласл. 2. Давесьці, прывесці да пэўнага месца. *Бутуваўся, бутуваўся, пакуль давёў да дому пьяныга дзядзьку.* Куркаўшчына Мсцісл. 3. Давесці, запусціць. *Апушчэнец ты, ды чаго ты двор давёў: усі пуні пызываліліся!* Пірагова Мсцісл.

ДА́ВЕЧЫ, *прыс.* Нядаўна, надоечы. *Давечы я была ў лясу.* Іванаўка Хоцім. *Давічы і пріхадзіў я к табе, ды цябе ў дваре ні было.* Бяседавічы Хоцім.

ДАВО́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Даводзіцца, прыходзіцца. *Ён мне даводзіцца браценьнікым.* Палуж Краснап.

ДАВО́ЛІ, *прысл.* Даволі. *Даволі табе ўжо есьць, ідзём!* Слаўнае Мсцісл.

ДАВО́ЛЬНА, *прысл.* Даволі. *Давольна табе там!* Васілёўка Хоцім.

ДАВО́ЛЬСТВУВЫЦЦА, *дзеясл.* Задавальняцца. *Ён ні завідлівый, давольствуіцца і малым.* Слаўнае Мсцісл.

ДАВО́ЛЬСТВУВЫЦЬ, *дзеясл.* Утрымліваць. *У міне сімья: два сыны, трі дочкі, ды нас двоя — нада ўсіх давольствувыць.* Маластоўка Краснап.

ДАВЫ́Д, -а, *м.* Уласнае імя Давід. *Давыд паехыў у Анціслый ны ярмырку.* Высокі Бор Краснап.

ДАГАРЫ́, *прысл.* Дагары. *Піравярні ты вядро дагары ныгамі — хай сохніць.* Ушакі Чэрык.

ДАГЭ́ТУЛЬ, *прысл.* Дагэтуль. *Гэта ж аказія з мальцам, пашоў — і дагэтуль німа.* Лешчынка Мсцісл.

ДАДЗЕ́ЛА, *прысл.* Да ладу. *Ета ён кажыць дадзела, так і нады зьдзелыць.* Маластоўка Краснап.

ДАДЗЕ́ЛЫЦЬ, *дзеясл.* Дарабіць, дакончыць работу. *Дадзелый дзела, й атдыхнуць можна.* Горкі Краснап.

ДАДЗЕ́РЖЫНЫЙ, *прым.* Датрыманы, вытрыманы. *Словы дадзержыныя.* Палуж Краснап.

ДАДУШЫ́, *прысл.* Сапраўды. *Дадушы ў яго німа нічога.* Крычаватка Расням.

ДАЁНКА, -і, *ж.* 1. Даёнка. *Сяньні я ныдаіла цельную даёнку мылыка.* Бяседавічы Хоцім. *Матка прынесла з-пыд кароў цэлую даёнку мылыка.* Белы Камень Бялынкав. 2. Дойная карова. *Ета карова — даёнка.* Хвёдараўка Краснап.

ДАЁТУЛЬ, даётуля, *прысл.* Дагэтуль. *Даетуль усё цягніцца пірагоўскае поля, а тады ўжо Залачэўскае.* Пірагова Мсцісл. *Дзе ты быў даетуль?* Маластоўка Краснап.

ДАЁХЫЦЬ, *дзеясл.* Даехаць. *Хуць ба нам даехыць да вечыра двору.* Залачова Мсцісл. *Пыгыняй, братка, кыня — хутчэй даедзім.* Ушакі Чэрык. *Даехыў ды пывароткі і ні знаіць, ці пряма ехыць, ці пывярнуць.* Арцёмаўка Міласл. *Ехыў, ехыў, пакуда ні даехыў.* Палуж Краснап.

ДАЖДЖЫ́ВЫЙ, *прым.* Дажджавы. *Дажджывая выда мяккыя.* Залачова Мсцісл.

ДАЖЫДА́НЫЙ, *прым.* Чаканы. *Прыйшоў к нам госьць дажыданый.* Маластоўка Краснап.

ДАЖЫНА́ЦЬ, *дзеясл.* Дажынаць. *Мы дажыналі пустаць, дык прыпазьніліся трохў.* Залачова Мсцісл.

ДАЖЫ́НКІ, -аў, *мн. л.* Дажынкі, сканчэнне жніва. *Ік дажнём жыта, дык дажынкі спраўляць будзім.* Маляцічы Крыч.

ДАЗВАЛЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Дазвол. *Ён спытаў у маткі дазваленьня.* Васілёўка Хоцім.

ДАЗВО́Л, -у, *м.* Дазвол. *Хто табе на ета даў дазвол?* Гібалы Касцюк. *Штоб пасьціўціць у лесі, нада раньшы дазвол палучыць.* Арцёмаўка Міласл.

ДАЗВО́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Дазволіць. *Дазвольця к вашай гырагулі нашыму гырагулёнку падсесьць.* Горка Краснап.

ДАЗВЫЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Дазваляць. *Далей ісьці ні дазвыляюць, во тут і сядзім.* Залачова Мсцісл.

ДАЙЖА, *прысл.* Нават. *Як зьезьдзіў у Ленінград, дык і гынарыцца пычаў, дайжа здароўкыцца ня хочыць.* Пірагова Мсцісл. *Мёду многа ні зьясі — прікра станіць і дайжа горька.* Арцёмаўка Міласл. *Да таго ён рызазьліўся, што дайжа зыплакаў ад злосьці.* Бяседавічы Хоцім. *Усе нашы пайшлі на міцінг, дайжа дзед і тэй пашоў.* Лешчынка Мсцісл.

ДАЙЦІ́, *дзеясл.* 1. Дайсці, зайсці. *Абы нам дайці да станцыі, каб хоць пасьпець ны машыну.* Мазалава Мсцісл. *Так стаміўся, што ледзь дайшоў двору.* Маляцічы Крыч. 2. Дайсці, дабіцца праўды, знайсці канцы-пачаткі, дадумацца. *Ніпраўда, ік узяўся, дык дайду, айдзе праўда! Ніхто ж яму ні пыказывай, усё сваім розумам дайшоў, як ета зьдзелыць.* Вярбоўка Расням.

ДАІ́ЦЬ, *дзеясл.* Даіць. *Марыля, бяры даёнку ды ідзі карову даіць.* Цірэні Расням. *Пастух прыгнаўся, трэба кароў даіць.* Палуж Краснап.

ДАКЛІ́КЫЦЦА, *дзеясл.* Даклікацца. *Яго нельга даклікыцца — ня чуіць.* Юркаўка Крыч.

ДАКО́НВАЦЬ, *дзеясл.* Даконваць, дакончваць, дабіваць. *Ты што, думаеш, саўсім ужо даконваць сваю новую пару? Схвай ты яе лучшы!* Пірагова Мсцісл.

ДАКО́НЧЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Дакончваць, канчаць работу. *Кыгда ты думаіш дакончывыць крішу; ато скора і дажджы пачнуцца?* Залачоўка Мсцісл.

ДАКО́Р, -у, *м.* Дакор. *Ня столькі тае выпіўкі было, колькі дакору.* Гібалы Касцюк. *Ні хачу ў яго браць і дакору яго слухаць, ато дасьць, ды пысьля гаворя ны кажным шагу.* Бабынічы Мсцісл.

ДАКО́РНЫЙ, *прым.* Дакучлівы. *Ну й дакорный жа ён! Ныдаесьць усім.* Хвёдараўка Краснап.

ДАКУ́КА, -і, *ж.* Дакука, назола. *Во яшчэ дакука, прічапілыся і ні 'твяжысься. Ні дакучай!* Гібалы Касцюк.

ДАКУ́ЛЬ, *прысл.* Дакуль. *Дакуль ты будзіш там драць лапці, ідзі ў хату, ато січас вазьму тапор і пысяку ваш каўзель.* Бяседавічы Хоцім. *Дакуль ты будзіш шлындыць тут?* Людагошч Мсцісл.

ДАКУ́МАНТ, -а, *м.* Дакумент. *Айдзе тут можна аб'яўку ізьдзелыць, што коньській дакумент паціряў.* Мсціслаў.

ДАКУПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Дакупіць, купіць у дадатак да таго, што ёсць. *Прыдзецца дакупіць ішчэ сена — ня хопіць етыга на зіму.* Залачова Мсцісл.

ДАКУЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Дакучаць. *Не дакучай ты мне сваімі пытаньнямі, німа мне часу адказываць на іх.* Гібалы Касцюк.

ДАКУ́ЧЫНЫ, -аў, *мн. л.* Турботы. *Нам дакучынаў дос?* Палуж Краснап.

ДАКЫНА́ЦЬ, *дзеясл.* Даканаць, дакончыць, дабіць. *Пыймалі злодзія і даліткі добря, чуць ні дакыналі.* Высокі Бор Краснап.

ДАКЫРА́ЦЬ, *дзеясл.* Дакараць. *Сьвякрова нявестку дакырае, што іна ні радзее*

*хаце, а ўсё к свайму боку горне.* Гібалы Касцюк.

ДАЛЁКА, *прысл.* Далёка. *Ці далёка ты быў? Далёка, атетуль ні відаць.* Пірагова Мсцісл. *Етый маліц далёка пойдзіць.* Бяседавічы Хоцім. *Мы хлопцыў прывадзілі далёка зы дзярэўню.* Багацькаўка Мсцісл.

ДАЛІНА, -ы, *ж.* Даліна, нізкае месца на полі. *Коні пасуцца там за горкый, у даліні.* Бабынічы Мсцісл.

ДАЛОНЬ, -і, *ж.* Далонь. *Пылажыла іна ны далонь рукі пушок, фукнула — ён і пыляцеў.* Ушакі Чэрык.

ДАЛЬШ, да́льшы *прысл.* Далей. *Пасілкываліся троху і пашлі дальш. Туды ехыць кружна, ны пяць вярстоў дальшы.* Палуж Краснап.

ДАМОЎ, *прысл.* Дадому. *Як прыехыла іна дамоў, дык усі вышлі спатыкаць.* Ушакі Чэрык.

ДАМЫ́СЬЛІЦЦА, *дзеясл.* Дадумацца. *Ета ты сам дамысьліўсь ці табе хто пыдкызаў?* Высокі Бор Краснап.

ДАНЕ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Данесці, занесці. *Цяжка было несьць, але-такі данісла.* Васілёўка Хоцім.

ДАПРЭ́Ж, *прысл.* Раней, перш. *Пыгадзі! Дапрэж усяго рыскажы, як ты думаіш далей рабіць.* Пірагова Мсцісл.

ДАПУСЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Дапусціць. *Я такога бясчэсьця ў сваёй хаце ні дапушчу.* Пірагова Мсцісл.

ДАРАБА́НІЦЬ, *дзеясл.* Брынкаць, таратахкаць. *Хопіць табе ўжо дарабаніць, пылажы былыбайку, ныдаеў!* Добрае Мсцісл.

ДАРАБО́К, -бка, *м.* Карабок, кораб. *Пыстаў дарабок ды сып бульбу.* Хвёдараўка Краснап.

ДАРАГО́ЎЛЯ, -і, *ж.* Дарагоўля, дарагавізна. *На бызарі тыкая дарагоўля, што ні пріступіцца ні да чаго.* Мсціслаў.

ДАРМА́, *прысл.* Дарма, без аплаты, ні за што. *Я вам дарма ня буду работыць, заплаці перве!* Пірагова Мсцісл.

ДАРМАВЫ́Й, *прым.* Дарэмны. *Дармувая трата часу — пірілівать з пустога ў парожнія.* Слаўнае Мсцісл.

ДАРНІ́ЦА, -ы, *ж.* Дранка, шырокая лучына (ужываецца на крыццё стрэх). *На ету крышу нада дзьве тысічы дарніц.* Бяседавічы Хоцім.

ДАРНІ́ЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад дарніца. *Дарнічка з крышы зьляцела.* Палуж Краснап.

ДАРО́БКА, -і, *ж.* Каробка. *Адна даробка была ў яго з цукеркамі, а другая — пустая.* Ушакі Чэрык.

ДАРО́ГА, -і, *ж.* Дарога. *Ету гаць толькі б піряехыць, а там будзіць добрыя дарога.* Мазалава Мсцісл. *Тут німа дарогі, нада йіць ныцянькі.* Бабынічы Мсцісл.

ДАРО́ДНЫЙ, *прым.* Мажны, поўны, тлусты. *Дародный чылавек — увесь салым зарос.* Хвёдараўка Краснап.

ДАРО́ЖКА, -і, *ж.* Памянш. ад дарога. *Туды йдзе торныя дарожка.* Палуж Краснап.

ДАРО́ЖЫЧКА, -і, *ж.* Вузенькая дарожка, сцежка. *К лесу ідзець дарожычка, вось па ёй ты і дойдзіш.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ДАРУБІ́ЦЬ, *дзеясл.* Скончыць рубіць. *Мы пасьці ўжо скончылі інбар, толькі пакоцьвіны дарубіць зысталося.* Пірагова Мсцісл.

ДАРУВА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Даравацць, прабачаць. *Даруй мне, што я ўчора злаіў цябе нізавошта.* Ушакі Чэрык. *Даруй, цесьць, ня гневыйся: ‖ Учора п'ян быў — прамовіўся!* З нар. песні. 2. Дарыць, рабіць падарунак. *Чым я цябе даруваць буду?* Маляцічы Крыч. *Дарую я віріб'я і з галоўкі венчыкам, ‖ З правыя ручкі персьнікым.* З нар. песні.

ДАРЭ́ЧЫ, *прысл.* Дарэчы, да ладу. *Ну калі ты што скажыш дарэчы? Заўсёды гародзіш ліха ведаіць што.* Ушакі Чэрык.

ДАСТАЦЬ, *дзеясл.* Дастаць, выняць. *Дастань крэмень ды красала і дабудзь агню.* Лютня Краснап.

ДАСТУ́ПНЫЙ, *прым.* Даступны. *Ідзі дразу ды яго: ён чылавек нігордый, даступный усім.* Горкі Краснап.

ДАСУ́ЖЫЙ, *прым.* Рупны, здольны, цікаўны. *Дасужы сь цябе чылавек будзя.* Хвёдараўка Краснап.

ДАСЬВЕ́ТУ, *прысл.* Досвета, рана, да світання. *Яна ўстае дасьвету і разым з маткыю ідзе ў поля.* Васілёўка Хоцім.

ДА СЬВІДА́НІЦА. Развітанне. Да пабачэння, бывайце здаровы. *Да сьвіданіца, доктар, спасібычка!* Тульдава Раснян.

ДАСЬПЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Даспець, зрабіцца спелым. *Яблыкі ў саду ўжо дасьпелі.* Сохана Мсцісл.

ДАСЮ́ЛЬ, *прысл.* Дасюль, дагэтуль, да гэтага месца, да гэтага часу. *Усі з горыда пупріхадзілі, а яго дасюль німа. Атсюль і дасюль твыя дзель дарогі, а далі Якыва.* Высокі Бор Краснап.

ДАТКНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Даткнуцца, зачапіць. *Нідатрога ікая — і даткнуцца ды яе ўжо нільга.* Гібалы Касцюк.

ДАТУ́ЛЬ, *прысл.* Датуль, да таго часу, да таго месца. *Датуль сьцігаўсь, пакуль ахрып.* Кокатава Мсцісл.

ДАЎБЕ́ШКА, -і, *ж.* Даўбешка, шляга. *Схапіў даўбешку ды трэснуў яго пы гылаве.* Палуж Краснап. *Кінь ты ўжо бырыбаніць у дошку даўбешкай: ноч тыкая відная, што ніхто красьці ні пойдзіць.* Ушакі Чэрык.

ДАЎГІ́Й, *прым.* Доўгі. *Мой шнур даўгі, ды вузкі.* Янава Раснян. *Далі яму даўгую пустухоўскую пугу, ён і гуляць зь ёю.* Парадзіна Мсцісл.

ДАЎМО́РУ, *прысл.* Да смерці. *Людзі пызыбівалі спыйманых злодзіїў даўмору.* Ясенка Краснап.

ДАЎНЕ́Й, *прысл.* Даўней, у даўно мінулы час. *Даўней бралі ў некруты на дваццыць пяць год.* Хвёдараўка Краснап. *Даўней у нас былі вуткі дык па гусі, а цяпер ужо зьвяліся, дробнінькія сталі — нейкі звод на іх прішоў.* Бяседавічы Хоцім.

ДА́ЎНІНА, -ы, *ж.* Даўніна, даўнейшае. *Ты хочыш, каб табе вярнулысь даўніна с прігонным, дык ні даждж эш, хуць лопні.* Слаўнае Мсцісл.

ДАЎНО, *прысл.* Даўно. *Ета поля даўно ўжо ялывiя.* Хвёдараўка Краснап.

ДАХОДЛIВЫЙ, *прым.* Даходлiвы, кемлiвы. *Карней — чылавек даходлiвый: ды ўсяго ён сваiм розумым дайдзець.* Б. Хутары Краснап.

ДАХОДЛIВЫСЬЦЬ, -i, *ж.* Даходлiвасць, кемлiвасць. *Нада ж мець такую даходлiвысьць — сам вiтряк зьдзелыў.* Горкi Краснап.

ДАЦЬ, *дзеясл.* Даць. *Нада яго пыпрасiць i хабыру даць, дык ён удобрiцца i зьдзелыiць. Ён ня злэй, толькi любiць, штоб далi i пыпрасiлi.* Арцёмаўка Мiласл. *Дай, Сеня, сьцiркi: падчысьцiць трэба — пумылiўсь.* Шарэйкi Касцюк.

ДАЦЬ ПУДЛУ. Настрашыць. *Ох i даў жа пудлу — пабег i нi 'глянуўся!* Хвёдараўка Краснап.

ДАЦЬ ФЫРНАБIКСУ. Добра прабраць з пагрозаю. *Даць яму фырнабiксу, штоб ён сваiх нi пызнаў, дык лепшым будзя.* Куркаўшчына Мсцiсл.

ДАЦЬ ХОДУ. Уцячы. *Я аттулiцька даў ходу, як толькi пыбачыў, што iны зацiваюць.* Палуж Краснап.

ДАЧКА, -i, *ж.* Надзел, шнур сенажацi. *Мне пупалысь тыкая дачка, што зь яе ныбраў воз сена.* Лешчынка Мсцiсл. *Нешта нiўпраўка ў нашыга Максiма: усе пыкасiлi, а яго дачкi стыяць.* Лешчынка Мсцiсл.

ДАЧУХНА, -ы, *ж.* Дачка, дачушка. *А мыя ж ты дачухна, а даўно ж я цябе нi бачыла! Як жа ты жывеш, мыя ягыдка?* Маляцiчы Крыч.

ДАЧУЦЦА, *дзеясл.* Дачуцца, даведацца праз людзей. *Матка мыя дачулыся, што Йван ета зрабiў.* Палуж Краснап. *Дачулiсь пры тваю бяду 'д людзей, а ты сам нi паведымiў нам.* Высокi Бор Краснап. *Як бы мне дачуцца, дык тады б я схадзiла адведаць, як яна жыве.* Парадзiна Мсцiсл.

ДАЧУШКА, -i, *ж.* Дачушка. *Мыя дачушка мне ўжо пымыгая.* Бабынiчы Мсцiсл. *Якая ты ў мяне, мыя дачушка, слысьцёха — любiш ўсё салодкыя.* Канiчы Касцюк.

ДАШУКIВЫЦЦА, *дзеясл.* Дашуквацца, вышукваць, рабiць допыт. *Пычаў вураднiк дашукiвыцца — зразу выдалi.* Парадзiна Мсцiсл.

ДАШЧЭНТУ, *прысл.* Дашчэнту, да звання, да астатку. *Пытравiлi етый кусок аўсу. Яшчэ да етый ночы нiчога було, а сяншнюю ноч ужу дабiлi дашчэнту.* Арцёмаўка Мiласл. *Калёсы дабiў дашчэнту: ехыць нiма на чым.* Палуж Краснап.

ДАЮЧЫ, *прысл.* Нядаўна, надоечы. *Даючы быў дождж.* Хоцiмск.

ДБАЛА, *прысл.* Дбала, рупна, клапатлiва. *Харошый хызяiн дбала адносiцца ды скацiны; iна воўрiмя накормлiна i напоiна.* Б. Хутары Краснап.

ДБАЛЫЙ, *прым.* Дбалы, рупны, клапатлiвы. *Рыгор — хлопiц дбалы, у яго ўсё зьдзелына ўпору.* Бабынiчы Мсцiсл.

ДБАЦЬ, *дзеясл.* 1. Дбаць, рупiцца. *Тэй нiчога ня мае, хто сабе ня дбае.* Сохана Мсцiсл. 2. Дыбаць, iсцi. *Ны дварэ сьцюдзёна, трэба дбаць у хату.* Малюшын Краснап.

ДВА, двух, *лiч.* Два. *Я ўжу два разы там быў — учора i сяньнi.* Арцёмаўка Мiласл. *Мне брат прыслаў два цырвонцы грошаў.* Пiрагова Мсцiсл. *З двух пудоў кынапель вышла глёк 'лею i бальшэй круг макухi.* Бясeдавiчы Хоцiм. *Двух хлапцоў вывiў у людзi, а трэцьцiй зыстаўсь неук.* Палуж Краснап.

ДВАДЗЕНЬНIК, -а, *м.* Бочачка з двума днамi. *Купiў ны бызары двадзеньнiк.* Горкi Краснап.

ДВАЙНЮШКI, -шак, *мн. л.* Спарышы, два гаршкi, злучаныя памiж сабою. *Нада купiць двайнюшкi ў поле 'бед насiць. Хырашо зь iмi: нальлеш у вадну капусту, ў другую кардохыль i нясеш у ваднэй руке, а ны другей дзiцёнка можна ўзяць.* Арцёмаўка Мiласл.

ДВАЙНЯК, -а, *м.* Гiра ў два пуды. *Дзядзька прынёс двайняк жыта атважыць.* Пiрагова Мсцiсл.

ДВАРОК, -рка, *м.* Памянш. ад двор. *Кыла лесу ў полi дварок адзiн стаiць.* Маластоўка Краснап.

ДВАРОЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад двор. *Пыкiдаю смародзiну ‖ Усё ны татычкыў дварочык.* З нар. песнi.

ДВАЦЦЫЦЬ, -i, *лiч.* Дваццаць. *Я вiныват яму за кыня дваццыць рублёў.* Лешчынка Мсцiсл. *У сяньнiцу ўвёз вазоў сы дваццыць сена.* Хвёдараўка Краснап. *Дзядзька купiў мне дваццыць патроныў к пугачыку.* Шарэйкi Касцюк.

ДВОР, -а, *м.* 1. Двор, панадворак. *Паеду да двыра. Як у цябе ў дварэ.* Хоцiмск. *Спалыхнуў мой двор, i я ня ўгледзiў.* Хвёдараўка Краснап. *Яго продкi былi некалi вельмi быгатыя, а ён во нi маiць нi кыла нi двыра.* Ушакi Чэрык. *Атчынi вароты, узьедзь на двор.* Слаўнае Мсцiсл. *Нехта ны дваре шамнуў.* Палуж Краснап. 2. Прасторы па-за сценамi дома. *На дваре тыкая цьмень, што хуць вока выкыль.* Лешчынка Мсцiсл. *Ня йдзi ты сягодня нiкуды: еткая хлеба ны дваре, што не давядзi бог.* Пiрагова Мсцiсл.

ДВОРУ, *прысл.* Дадому, дамоў. *Пойдзем двору, нечыга тут бавiцца.* Палуж Краснап. *Так нымурдуваўсь, што ледзь двору прiшоў.* Бясeдавiчы Хоцiм. *Хлопцы Янку напетывалi, ажно чуць двору прышоў.* Пухнава Расиян. *Пыра й мне ўжо iсьцi двору.* Лешчынка Мсцiсл.

ДВОРЫШЧА, -а, *н.* Двор, панадворак, тэрыторыя двара. *На дворышчы дужа грязна.* Хвёдараўка Краснап.

ДВОХМЕСНЫЙ, *прым.* Двухмесны. *Нупрей двохмесныя санi сiбе купiў.* Краснаполле.

ДВОЯ, *лiч.* Двое. *Двоя судоў вады прынiсла.* Хвёдараўка Краснап.

ДВУКОЛКI, -лак. *мн. л.* Двухколка. *Двуколкi зыпряжы, ато калёсымi нi прыедзiш у еткыю ростань.* Барысавiчы Клiм.

ДВУЛЁЗКА, -i, *ж.* Гэблiк з двума лязамi. *У яго аднальёзка толькi, двулёзкi нiма, таму i выходзiць нячыста габлiвана.* Хвёдараўка Краснап.

ДВУХВЕРЬХЫВЫЙ, *прым.* Двухпавярховы. *Унь вiдзiш, двухверьхывый дом, там i будзiць райсавет.* Краснаполле.

ДВУХІТАЖНЫЙ, *прым.* Двухпавярховы. *Етый дом будзіць двухітажный, відзіш, вокны строюцца ў два ряды.* Арцёмаўка Міласл.

ДВУХКАЛЁСНЫЙ, *прым.* Двухкольны. *Зыпражка двухкалёсныя.* Высокі Бор Краснап.

ДВУХМЕСНЫЙ, *прым.* Двухмесны. *Купілі двухмесный дзіван.* Арцёмаўка Міласл.

ДВУХНЯДЗЕЛЬНЫЙ, *прым.* Двухнядзельны, двухтыднёвы. *Далі двухнядзельный срок на выплату пыдатку.* Стары Дзедзін Міласл. *Пырясёнык ішчэ малінькій, двухнядзельный.* Б. Хутары Краснап.

ДВУХСТВАЛОЎКА, -і, *ж.* Двухстволка, стрэльба-дубальтоўка. *З двухствалоўкі выстріліў і ні пупаў.* Палуж Краснап.

ДВУХСТВОЛКА, -і, *ж.* Двухстволка, дубальтоўка. *Двухстволкый луччы пыліваць: ні пупыдзеш з аднэй, дык з другей зараз жа выстрыліш.* Янава Раснян. *У яго была двухстволка, дык ён выстріліў два разы і ні пыпаў.* Арцёмаўка Міласл.

ДВУХТРЫСЬЦЕННЫЙ, *прым.* На дзве палавіны. *У яго двухтрысьценны мяшок ны тыбаку.* Хвёдараўка Краснап. *Хвёдар двухтрысьценны дом хочыць дзелыць.* Маляцічы Крыч. *Двухтрысьценныя пуня.* Хвёдараўка Краснап.

ДВЫЙНЯТЫ, -ят, *мн. л.* Двайняты, блізняты. *У нас адна мыладуха двыйнят радзіла і абоі жывенькія і растуць абаі.* Арцёмаўка Міласл.

ДВЫНАЦЦЫЦЬ, -і, *ліч.* Дванаццаць. *Маё бёрда на двынаццаць пасым.* Маляцічы Крыч. *Двынаццыць губык выткыла.* Маластоўка Краснап.

ДВЫРАК, -а, *м.* Шляхціц, дваранін. *Наш хверчыл з двыракоў.* Горкі Краснап.

ДЖАЛА, -а, *н.* Джала. *Пчыла дала мне ў ліцо джала, што ўсё чысьцінька распухла.* Слаўнае Мсцісл. *Зьмія джала выпускаіць, біряжысь — уджаліць. У зьмії ні джала, а зубы, ато іна язык выпускаіць.* Высокі Бор Краснап.

ДЖМУХНУЦЬ, *дзеясл.* Дзьмухнуць, з сілаю дунуць. *Як джмухнуў, дык попел ува ўсі бакі пырызьляцеўсь.* Парадзіна Мсцісл.

ДЖОГА, -і, *ж.* Востры на язык чалавек, знаходлівы. *Яна джога, голымі рукамі яе ня возьміш.* Горкі Краснап.

ДЖУПЛА, -ы, *ж.* Пуга. *Вазьмі джуплу і пыгыняй кыня.* Бялішчына Мсцісл. *Дай яму джупла.* Янаўка Раснян.

ДЖУРГАНУЦЦА, *дзеясл.* Выцяцца аб што-небудзь, рэзнуцца. *Я ў пацёмкых так джургануўсь аб брыж стыла, што на лбу гуз ускачыў с кулак.* Слаўнае Мсцісл.

ДЖЫГАНУЦЬ, *дзеясл.* Джгануць. *Як джыганула пчыла, аж падскочыў.* Парадзіна Мсцісл.

ДЖЫГЫЦЬ, *дзеясл.* Джгаць, запускаць джала. *Я ні пыйду к вульлю — пчолы джыгыць будуць.* Маляцічы Крыч. *Ныпалі ны кыня восвы і пычалі джыгыць.* Б. Хутары Краснап.

ДЗВІНУЦЦА, *дзеясл.* Зрушыцца. *Як увідзіў мірцьвіца, дык ні спужайся, а неік утароп мяне ўзяў: стаю, як стоўп, і ні магу зь места дзвінуцца.* Арцёмаўка Міласл.

ДЗЕ, *прысл., злучн.* Дзе. *Дзе коныўка — вады трэба зачэрпнуць?* Ушакі Чэрык. *Дзе ты жывеш? Пыкажы, дзе твыя хата.* Янава Раснян. *Дзе б ета ўзяць порыху з хунт які — на ліса пашоў бы?* Камароўка Крыч.

ДЗЕВІРЬ, -а, *м.* Дзевер, брат мужа. *Ну і дзевірь жа мой, каб яго на тэй сьвет прывaліла!* Міцькаўшчына Мсцісл. *Дзевірьто так-сяк, ну а што яго жонка, дык штоб ёй і ўспаміну ні було!* Бяседавічы Хоцім.

ДЗЕВІЦЬ, -і, *ліч.* Дзевяць. *Я ж дзевіць гадоў плачу, і зыцяжкі німа.* Хвёдараўка Краснап.

ДЗЕВЫНЬКА, -і, *ж.* Памянш. ад дзеўка. *Дзевынькі, галубычкі, запейце песьнічку!* Бабынічы Мсцісл.

ДЗЕВЫЧКА, -і, *ж.* Дзяўчынка. *Спыдыбала мне етыя дзевычка.* Меншая Багацькаўка Мсцісл. *Зы сталом сядзела дзевычка і гатовілась есьць крупеню.* Лешчынка Мсцісл.

ДЗЕВЯР, -а, *м.* Дзевер. *У мяне два дзевяры, і абодва ніжынатыя.* Краснаполле.

ДЗЕВЯЦЬ, -і, *ліч.* Дзевяць. *Я купіла бёрда ў дзевяць пасмаў.* Буліна Клім.

ДЗЕГЦЯРКА, -і, *ж.* Пасудзіна для дзёгцю. *Прівяжы дзегцярку к стайну.* Бяседавічы Хоцім.

ДЗЕГЫЦЬ, -хцю, *м.* Дзёгаць. *Усяго паспытаў — адначасьне, праўда, але і дзёгыць гнаў.* Парадзіна Мсцісл. *Увесь чыста ў дзёгыць паўдзелыўся.* Палуж Краснап. *Пры яе дренныя слава ідзе. Дзёхцім вароты хацелі мазыць.* Парадзіна Мсцісл.

ДЗЕД, -а, *м.* 1. Бацькаў або матчын бацька. *Бацька з маткый паехылі ў горыд, толькі дзед адзін дома.* Буда Рагатая Міласл. *Дзед мой шмат чаго кызаў а старыне.* Міцькаўшчына Мсцісл. 2. Стары чалавек наогул. *У нас ёсьць дзед, якей дужа лоўка ў гырлач вайкоў вабіць.* Хвёдараўка Краснап. 3. Знахар. *Мой хлопчык зьлякнуўся сыбакі, дык ат етыга і хвареіць; нада звадзіць к дзеду, каб выкычыў.* Слаўнае Мсцісл. 4. *бат.* Дзядоўнік. *Конь пыхадзіў кылы прясла, дык цэлыя грiва і хвост дзядоў нычыплялысь.* Бяседавічы Хоцім. *Мой сыбака недзе ў дзяды ўбіўся: увесь шышкамі аброс.* Барысавічы Клім. 5. Стаяк у варштаце для выгінання палазоў. *І етый дзед яшчэ крепык — хуць які полыз сагнець.* Ташна Клім.

ДЗЕДЗЬКА, -а, *м.* Памянш. ад дзед. 1 і 2. *Старошынькій дзедзька быў сяньні ў нас.* Бардзіч Краснап.

ДЗЕДКА, -а, *м.* Памянш. ад дзед. *Ці ні бачыў, дзедка, нашыга кыня?* Раздзел Мсцісл.

ДЗЕДЫЎ, *прым.* Дзедаў. *Ета дзедыў кій, ні чыпай.* Касперка Міласл. *Нюхнуў я тыбакі з дзедывый тыбакеркі.* Галічы Міласл.

ДЗЕДЫЎСЬКІЙ, *прым.* Дзядоўскі. *Ета шапка яшчэ дзедыўськыя: дзед насіў, бацька насіў, а січас я ўжо нашу яе.* Шумячы.

ДЗЕЖКА, -і, *ж.* Дзежка, пасудзіна, у якой месяць хлеб. *З етай дзежкі булак пяць хлеба выйдзець.* Пірагова Мсцісл. *Дзежка вельмі брудная, памыць нада.*

ДЫВЯСЬЦІ́СЯ, даве́сца, *дзеясл.* Давесціся. *Дывялось мне публудзіць ны сваём вяку, ну а штоб так зыблудзіцца, як мы сяньні, дык ета першы раз.* Бяседавічы Хоцім. *Дывядзецца йшчэ зьездзіць у Менск, у сталіцу нашу біларускую.* Слаўнае Мсцісл.

ДЫГЛІДА́ЦЬ, *дзеясл.* Даглядаць. *Мне хоць бы якую дзяўчынку, каб іна мыгла зы дзяцьмі дыглідаць, як я пайду ў поля, ды дому пасьцярэч.* Раздзел Мсцісл. *А хто яго дыглідаіць біз маткі?* Арцёмаўка Міласл.

ДЫГЛЯ́Д, -у, *м.* Догляд. *Скацінка любіць добрый дыгляд хыдзяіна.* Сохана Мсцісл.

ДЫГНА́ЦЬ, *дзеясл.* Дагнаць. *Але ж во шпарка ты йдзеш — чуць дыгнаў.* Парадзіна Мсцісл.

ДЫГЫВАРІ́ЦЦА, *дзеясл.* Дагаварыцца, згадзіцца. *Дыгыварілісь руп у дзень, а зыплаціў па восім грівін.* Арцёмаўка Міласл.

ДЫГЫДА́ЦЦА, *дзеясл.* Дагадацца. *Антон адразу дыгыдаўся, хто яго шапку схуваў.* Асінаўка Мсцісл.

ДЫГЫНЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Даганяць. *Садзіся вярхі і дыгыняй: ён яшчэ далёка ні зайшоў — дагоніш.* Іміркі Раснян.

ДЫДА́ЦЬ, *дзеясл.* Дадаць, дабавіць. *Дыдай яму ішчэ два рублі, хай бярэць, калі хочыць, а болі ні дывай.* Мсціслаў. *Мы золыта прісыплім, прісыплім, ‖ Мы серібра дыдадзём, дыдадзём.* З нар. песні, М. Г. 10.

ДЫДУШЫ́, *прысл.* Верна, слова гонару. *Дыдушы табе кажу, што сам ны сваё вочы бачыў.* Зарубец Крыч. *Дыдушы ж ета ніпраўда!* Сохана Мсцісл.

ДЫ́ДЫМЫХ, *прысл.* Штуршком нагою. *Капні яго дыдымых.* Хвёдараўка Краснап.

ДЫЖДА́ЦЦА, *дзеясл.* Дачакацца. *Ну, дыждаліся мы цёплых днёў, цяпер ня так страшна зы скаціну.* Пірагова Мсцісл. *Ці даждёмся мы зачыну жаць жыта.* Слаўнае Мсцісл.

ДЫЖДА́ЦЬ, *дзеясл.* Дачакаць, дачакацца. *Я ўжо дыждала падмогі: доню выгыдывыла.* Машавая Бялынкаў.

ДЫЖДЖАВЫ́Й, *прым.* Дажджавы. *Дыжджавэя чырвякі пувылазілі зь зямлі — знаць, зыдажджыцца надыўга.* Журбін Бялынкаў. *Дыжджавыя грыбы пырасьлі ны балоця.* Турэйск Краснап.

ДЫЖЫДА́НЫЙ, *прым.* Чаканы. *Доўга дыжыданый дзень свадзьбы ныканецтыкі ныступіў.* Слаўнае Мсцісл.

ДЫЖЫДА́ЦЬ, *дзеясл.* Чакаць. *Чаго ты тут стаіш? Дыжыдаю Васіля Маркывыча.* Шчулканы Раснян. *Я яго дыжыдаю.* Ціведкая Краснап.

ДЫЗВА́ЦЦА, *дзеясл.* Даклікацца. *Цябе нільга дызваца.* Палуж Краснап.

ДЫІДА́ЦЬ, *дзеясл.* Даядаць. *Пытравілі кусок айсу, дык я нывізаў цёлку: ніхай дыідаіць.* Арцёмаўка Міласл.

ДЫЙ, *злучн.* Ды. *Дый пыра і табе, Мікола, брацца зы касу.* Лешчынка Мсцісл. *Скарэй вазьмі хлыбазіну дый гані карову ў пуню.* Куркаўшчына Мсцісл.

ДЫК, *злучн.* Ды, але. *Я яму кызаў, каб ён прішоў к табе, дык ён ня хочыць.* Лешчынка Мсцісл. *Хацеў абедыць, дык кажуць, рана яшчэ.* Гібалы Касцюк.

ДЫКАСІ́ЦЬ, *дзеясл.* Дакасіць. *Ну-ка, брат, прайдзі пакосы два, усе ж я скарэй дыкашу.* Бяседавічы Хоцім.

ДЫКЛА́Д, -у, *м.* Даклад, дадатак. *Ныбраў сукна ны пінжак і ўвесь дыклад к яму.* Сохана Мсцісл.

ДЫ́ЛДА, -ы, *м.* і *ж.* Дылда, доўгавязы чалавек. *Во нейкі дылда пашоў і шыгае па цэлай сажэні.* Лешчынка Мсцісл.

ДЫЛІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Даліваць. *Капуста сусім выкіпіла ў печы, дылівай, ды сала ўкінь.* Слаўнае Мсцісл.

ДЫЛІКА́ТНІЧАЦЬ, *дзеясл.* Далікатна адносіцца да другіх. *Наш Мікола, як тэй шляхціц, дужа ўжо стаў дылікатнічаць.* Лешчынка Мсцісл.

ДЫЛІКЫВА́ТА, *прысл.* Далекавата. *Нам цяпер дылікывата хадзіць у раён, а ў округ дык саўсім далёка.* Арцёмаўка Міласл.

ДЫЛІТА́ЦЬ, *дзеясл.* Далятаць. *Далёка дужа, камінім шыбанеш, дык ні дылітаіць.* Андроны Раснян.

ДЫЛІЧЫНЯ́, -і, *ж.* Далечыня. *Ты ж ні дайдзеш к вечыру, ого, еткыя дылічыня!* Пірагова Мсцісл.

ДЫМ, -у, *м.* Дым. *З коміна йдзе дым.* Сідараўка Хоцім. *Напусьцілі поўну хату дыму.* Галічы Міласл.

ДЫМАВІ́НА, -ы, *ж.* Дамавіна, труна. *Як у дымавіну ляжыш, дык нічога ўжо ні скажыш.* Палуж Краснап.

ДЫМАКУ́Р, -а, *м.* Чалавек, што гоніць самагонку. *Ён у нас найпервый дымакур.* Хвёдараўка Краснап.

ДЫМАСЕ́ДНІК, -а, *м.* Дамасед. *Я — дымаседнік, ні люблю нікуды хадзіць.* Пірагова Мсцісл.

ДЫ̂МНА, *прысл.* Дымна. *Ты комін зычыніла, а там у печкі, знаць, махнытка яшчэ зыстылась, нешта дымна ў хаці.* Арцёмаўка Міласл.

ДЫМНІ́ЦА, -ы, *ж.* Дымаход, ляжак. *Мабыць нешта ў дымніцы зывалілысь — дым ня йдзе ў комін. Палезь-ка ты пыглядзі ны гару, што там такоя.* Галічы Міласл.

ДЫНЕ́, *прысл.* Не. *Дыне, я не пайду к яму.* Хоцімск. *Дыне, ня йдзі, ня трэба.* Васілёўка Хоцім.

ДЫНІМА́ЦЬ, *дзеясл.* Данімаць. *Мой бізунчык, хуць тонінькій, алі добря данімаіць.* Слаўнае Мсцісл.

ДЫНЯСЬЦІ́, дане́сць, *дзеясл.* Данесці. *Пыдсабі мне дынясьці да дому етыю дзежку. Ня ўломык, дынясеш і адзін.* Краснаручча Раснян. *Ты вазьмі гаршчок аберуч, ато ні дынясеш — гарач.* Пірагова Мсцісл.

ДЫПАСЬЛЕ́ДКУ, *прысл.* Да паследняга. *Злодзіі ўсё дыпасьледку пубралі ў клеці.* Палуж Краснап.

ДЫПІКА́НЬНЕ, -я, *н.* Папіканне. *Дыпікаюць тым, што я іх хлеб ем. Ныдаелі мне етыі дыпіканьні, я й адыйшоў ад іх.* Горкі Краснап.

ДЫПІКА́ЦЬ, *дзеясл.* Папікаць. *Во і пычалі яны мяне дыпікаць тым, што мой бацька бедный.* Пірагова Мсцісл.

ДЫПРА́ЎДЫ, *прысл.* Праўда, дапраўды. *Дыпраўды гэта ні казка, а праўда.* Слаўнае Мсцісл.

ДЫРАБО́ТЫЦЦА, *дзеясл.* Дарабіцца, дайсці. *Дыработаўся бацька к старасьці, што ня можыць цяпер рукою дзьвінуць і ляжыць цэлыя дні на печы.* Пірагова Мсцісл.

ДЫРАГІ́Й, *прым.* Дарагі. *Ета дужа дырагей тывар, у мяне ніхваціць грошы, штоп яго купіць.* Арцёмаўка Мсцісл.

ДЫРАГО́ЎЛЯ, -і, *ж.* Дарагоўля. *Еткыя цяпер у горыдзі дырагоўля на хлеб, ды і няма яшчэ яго.* Пірагова Мсцісл. *На ўсё ныстала дырагоўля, нічога ні дакупісься.* Сохана Мсцісл.

ДЫРАЖЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Даражыць, цаніць. *Я дужа дыражу сваёю шубаю — яна хоць і старая, а цёплыя.* Пірагова Мсцісл.

ДЫРА́ЗУ, *прысл.* Адразу. *Сайка ўсю міску зьеў дыразу.* Палуж Краснап.

ДЫРГА́ЦЬ, *дзеясл.* Торгаць, тузаць. *Пычаў зы вярёўку дыргаць, а йна ні пыдаецца.* Палуж Краснап. *Есьць у мяне ліха мачыха: ‖ А йна мыіць усё, смыргаючы, ‖А йна чэшыць усё, дыргаючы.* З нар. песні.

ДЫРМА́, *прысл.* Дарма. *Дарма ты кажыш яму, усё роўна нічога зь етыга ня будзець.* Лешчынка Мсцісл. *Ягор дужа дзешыва купіў кыня: пряма дырма ўзяў.* Канічы Касцюк.

ДЫРМАЎШЧЫ́НА, -ы, *ж.* Дарэмшчына. *Што ты думаіш, я табе на дырмаўшчыну пайду? Не, дудкі, заплоціш!* Пірагова Мсцісл.

ДЫРЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Даравацъ. *Еткыя ён табе зло зьдзелыў, а ты дырываць яму ўздумыў, пумірыўся ўжо?* Слаўнае Мсцісл.

ДЫСА́ДА -ы, *ж.* Непрыемнасць, шкадаванне, засмучэнне. *Быльшая дысада ляжыць на серцы.* Людагошч Мсцісл.

ДЫСА́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Шкадаваць, быць засмучаным. *Ны дысадзься дужа — пройдзя ўсё, а ты зыстанісься.* Хвёдараўка Краснап.

ДЫСКА́, -і, *ж.* Дошка. *Толькі купіў яму даску, а ён узяў ды пабіў яе. Дыска чорныя.* Шарэйкі Касцюк.

ДЫСКЫНА́ЛА, *прысл.* Дасканала, грунтоўна, падрабязна. *Ён дыскынала ўсё нам рыстлумачыў — і як дайсьці ды таго чылавека, і што ў яго прасіць.* Краснаручча Расеян.

ДЫСКЫНА́ЛЫЙ, *прым.* Дасканалы. *Арцём — дзед дыскыналый, ад усякіх хвароб знаіць.* Кокатава Мсцісл.

ДЫСПА́ЦЬ, *дзеясл.* Даспаць, выспацца. *Сяньні ён ні дыспаў — відна пы вачох.* Раўнішча Краснап.

ДЫСТАНПУ́ЛКА, -і, *ж.* Указка. *Ён яшчэ з дыстанпулкаю чытаіць.* Саралаўшчына Мсцісл.

ДЫСТА́ЎШЧЫК, -а, *м.* Дастаўшчык. *Ета наш дыстаўшчык, ён нам усі тывары дыстаўляіць.* Горкі Краснап.

ДЫСТА́ЦЦА, *дзеясл.* Дастацца. *Дысталося яму пы загрыўку.* Палуж Краснап.

ДЫСТА́ЦЬ, *дзеясл.* Дастаць. *Дыстань з скрыні абцужкі і павырывай зь сьцяны гвозьдзя.* Сохана Мсцісл. *Марылька, дыстань с падпольля картошкі.* Роськаў Калінінішчына. *Наш студзін дужа глыбокій, трудна вады дыстаць.* Канічы Касцюк.

ДЫСТРЫНЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Дагаджаць. *Наш кравец ня любіць дыстрынчаць, а як сшыіць, так і бяры.* Кокатава Мсцісл.

ДЫСТЫВА́НЬНЯ, -я, *н.* Даставанне, набыванне. *Цяжка було ета дыстываньня грошы ны карову: троху зырабілі, а што пазычылі.* Арцёмаўка Міласл.

ДЫСТЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Даставаць. *Дыстывай пытравы, будзім абедыць.* Кокатава Мсцісл. *Дыстывай-ка піпку ды тыбаку — закурім.* Касцюковічы.

ДЫСТЫГНА́ЦЦА, *дзеясл.* Дастагнацца. *Дыстыгналіся яны, пакуль і саўсім ужо ногі прыцягнулі.* Пірагова Мсцісл.

ДЫТЛА, *прысл.* Датла, дашчэнту, да астатку. *Згарэла ўсё дытла, нічога ні зысталося.* Кокатава Мсцісл.

ДЫТЫКА́ЛЬНІК, -а, *м.* Датыкальнік, прылада датыкаць кросны, каб меншыя засталіся канцы. *Нада пуправіць дытыкальнік, каб ніткі былі кырачэй.* Хвёдараўка Краснап.

ДЫТЫРКА́ЦЦА, *дзеясл.* Дакранацца. *Во склаў капу—ні дытыркайсь, ато рызваліцца.* Парадзіна Мсцісл.

ДЫТЫРКНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Дакрануцца. *Я ж і ні дытыркнуўся ды яго, а ён зыплакыў, як быццым я яго пабіў.* Сохана Мсцісл.

ДЫУГАЛЫ́ГІЙ, *прым.* Даўганогі. *Ты, як бусіл, дыўгалыгій.* Высокі Бор Краснап.

ДЫУКЫТА́, -ы, *ж.* Цесната, таўкатня. *Тыкая дыўкыта ў лаўкі, што і ды тывару нільзя дыбраццa.* Лешчынка Мсцісл.

ДЫХ, -у, *м.* 1. Дыханне. *Дыху больш ні хыпая бехчы за ім.* Палуж Краснап. 2. Праборка, суровая вымова. *Вучыціль даў майму мальцу дыху зы балыўства.* Палуж Краснап.

ДЫХАВІ́ЦА, -ы, *ж.* Дыхавіца. *Еўка і Алесь так бегылі шпарка, што ў іх пычылась дыхавіца.* Бабынічы Мсцісл. *Дыхавіцу ныгнаў.* Палуж Краснап.

ДЫХАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Даходзіць, дабівацца. *Стаў дыхадзіць праўды.* Палуж Краснап. *Чуць дайшоў сваіх правоў.* Парадзіна Мсцісл.

ДЫХА́ТЫ, *прысл.* Дадому, дамоў. *Трэба йці дыхаты.* Сохана Мсцісл.

ДЫ́ХАЦЬ, *дзеясл.* Дыхаць. *Зысланіла грудзі, і дыхаць некуды.* Гібалы Касцюк.

ДЫ́ХЛЯ, -і, *ж.* Дрыгва, трасяніца. *Тут дыхля, нада іціць ціха, ато калі прывалісься, дык сам ня вылізіш; відзіш, як іна «дышыць», як я іду.* Бяседавічы Хоцім.

ДЫХНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Дыхнуць, перавесці дух. *Цяпер столькі работы, што і дыхнуць некылі.* Куркаўшчына Мсцісл.

ДЫ́ХЫНЬНЯ, -я, *н.* Дыханне. *Дыхыньня ў грудзёх зыхапіла.* Сохана Мсцісл.

ДЫ́ХЫУКА, -і, *ж.* Дыхаўка, дыхавіца. *Так бег пыд гару зы канём, што ныгнаў дыхыўку і ў бок зыкалола.* Слаўнае Мсцісл.

**ДЫ́ХЫЦЬ**, *дзеясл.* Дыхаць. *Увайшоў я ў пуню і ашылапеў — ляжыць мой конь і ня дыхыіць.* Арцёмаўка Мiласл.

**ДЫЧА́СУ**, *прысл.* Дачасна, не ў час. *Прішоў ты дычасу: ні гатовы йшчэ твае сыпагі.* Маластоўка Краснап.

**ДЫЧКА́**, -і, *ж.* Дачка. *Дычка ў матку ўдылася: маткіны вочы, бровы, маткіны і пынароўкі.* Палуж Краснап. *Раю табе, кума, аддаць дачку зы яго.* Лешчынка Мсцісл.

**ДЫ́ШЛА**, -а, *н.* Дышаль. *У плузе зламілыся дышла.* Бязводзічы Мсцісл. *Зыпряглі пару коні ў адны калёсы, замест аглаблей прічапілі дышла, каб ні мішаць адзін другому бежч.* Слаўнае Мсцісл.

**ДЭ́БАЦЬ**, *дзеясл.* Дыбаць, ісці, цяжка ступаць. *Ён дэбыя, дык зы вярсту чутна.* Хвёдараўка Краснап.

**ДЭМАНСТРА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Дэманстрацыя. *Пабудывалі арку к дэманстрацыі.* Пірагова Мсцісл.

# Е

**Е́ВНЯ**, -і, *ж.* Еўня, частка гумна [будынак у гумне], дзе пабудавана печ, над якою зроблены насціл з жэрдак, куды кладуць сушыць снапы перад малацьбой. *На евні сушылі хлеб.* Журбін Бялынкав. *Снапы зьвезены на евню.* Кісялёва Буда Краснап.

**Е́ЖА**, -ы, *ж.* Ежа. *Ого, як ён ахвоцін ды смашныя ежы!* Слаўнае Мсцісл.

**Е́ЖАЛІ**, *прысл.* Калі. *Ежалі будзе добрыя пагода, то я пайду ў лес.* Хоцімск. *Ежалі гэты аполак гуніць, то ўжо і ня знаю, якей вам і прывезьці.* Б. Хутары Краснап.

**Е́ЖЛІ**, *прысл.* Калі. *Ежлі ваша групе не рабіла нічога, дык ніхто вам ні віныват.* Лар'янава Мсцісл.

V **ЕЗ**, -а, *м.* Яз, перагародка, якую ставяць рыбакі на рацэ, з праходам, у якім расстаўляюць нерат. *Максім на ряце забівай ез, а я на березі сядзей.* Гібалы Касцюк. *Ці хараша ты, Яшка, забій ез? Будзем ставіць нераты.* Новыя Капачы Мсцісл.

**Е́ЗІК**, -а, *м.* Памянш. ад ез. *Забілі езік, будзім рыбу лавіць.* Барысавічы Клім.

**Е́ЗЬДЗІЦЬ**, *дзеясл.* Ездзіць. *Сяньня ўжо шарэш на рацэ, скора пачнем езьдзіць цераз.* Юшкі Мсцісл. *Пасьцівіць кыня ня хочыш, а езьдзіць любіш, каб ты жыватом езьдзіў!* Гібалы Касцюк.

**Е́ЙНЫЙ**, *займ.* Яе. *Ейный ўнук хрымаў.* Паўлавічы Клім.

**Е́КАТАЦЬ**, *дзеясл.* [Якатаць], стагнаць. *Як пычаў екатаць, дык хоць ты з хаты бягі.* Пірагова Мсцісл.

**Е́КСТРЫННА**, *прысл.* Экстранна, хутка, тэрмінова. *Екстрынна трэба купіць бульбы.* Хвёдараўка Краснап. *Яму екстрінна нада було пріехыць у горыд.* Арцёмаўка Міласл.

**ЕКЫТА́НЬНЕ**, -я, *н.* Якатанне, стагнанне. *Ні плач, ні екытаньне табе ні паможыць, сьціхні ты ўжо екытаць.* Горня Хоцім.

**ЕЛЬ**, -і, *ж.* Елка, ель. *У етым лесі толькі ель ды сысна, больш нічога ні расьцець.* Гімбатоўка Мсцісл. *А што табе, сылавей, спыдыбала тута,* || *А ці ель, ці сысна, ці белыя бяроза?* З нар. песні, М. Г. 13.

**Е́ЛЬНІК**, -у, *м.* Ельнік, параснік маладых елак. *Акраіна лесу зарысла густым ельнікам.* Канічы Касцюк.

**Е́ЛЬНІЧЫК**, -чка, *м.* Памянш. ад ельнік. *Глядзі, якей густэй ельнічык узьняўся.* Камароўка Крыч. *Каб па том па ельнічку,* || *Ды два брахнінькі гулялі.* З нар. песні.

**ЕМКА́Ч**, -а, *м.* Чапяла. *Хызяйка емкачом выставіла з печы скывыраду.* Тошчыца Быхаў.

**Е́МЯ**, -я, *н.* Яда, ежа [спажыванне]. *Нымалацілі — ні на семя, ні на емя.* Парадзіна Мсцісл. *Кінь хлеба на емя.* Хвёдараўка Краснап.

**Е́НК**, -у, *м.* Енк, стогн. *Ні магу я етыга енку слухыць.* Залачова Мсцісл.

**Е́НЧЫЦЦА**, *дзеясл.* 1. Енчыць, мучыцца, стагнаць ад болю. *Цэлую ноч з зубамі енчыўся.* Кокатава Мсцісл. *Мой дзіцёнак усі етыя дні із жыватом енчыцца, гора зь ім!* Пірагова Мсцісл. 2. Дакучаць няпрошанымі паслугамі. *Гдзе ж ета жанчына, што енчылась ды мяне са сваею тыбакеркыю.* Куркаўшчына Мсцісл.

**Е́НЧЫЦЬ**, *дзеясл.* Енчыць, стагнаць ад болю. *Чаго ты енчыш, чаго ты пішчыш, ну што я табе параджу, калі баліць?* Серчыцы Краснап.

**ЕРУНДА́**, -ы, *ж.* Глупства, бяссэнсіца. *Ерунду ты кажыш.* Хоцімск.

**Е́СТВА**, -а, *н.* Ежа, закусь. *Ай, ества колькі хочыш было, толькі еш.* Галынец Краснап.

**Е́СТЫЙ**, *займ.* Гэты. *Зь естым чылавекым я даўно знаюся.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

**ЕСЬЦЬ**, *дзеясл.* Есці. *Яблыкі такія горкія, што і есьць нільзя.* Лешчынка Мсцісл. *Мы елі дзягно. Латруга ты, скора, верна, есьць будзіш ляніцца.* Серчыцы Краснап.

**Е́СЬЦЬКІ**, *дзеясл.* Есці (дзіцячае). *Моты, дзетка, есьцькі зыхацела, дык я дам кашкі.* Пацкава Мсцісл. *Чаго ж ты, коцічык, плачыш:* || *Ці піцькі, ці есьцькі хочыш?* З нар. песні.

**Е́СЬЦЮХНЫ**, *дзеясл.* Есці (дзіцячае). *Маё ж ты дзіцятычка, яно есьцюхны зыхацела — зарыз дам табе цыцы, ні плач.* Навашоўкі Расьнян. *Тваё дзетухны плачуць,* || *Яны есьцюхны просюць.* З нар. песні, М. Г. 130.

**Е́ТА**, *займ.* Гэта. *Хочаш ета, а хочаш ета.* Мсціслаў. *Ета дзедыў кій — ні чыпай.* Касперка Міласл. *За ўсё ета 'ддай грыўню.* Хвёдараўка Краснап.

ЁТКІЙ, *займ.* Гэтакі, гэткі. *Ня йдзі ты сягодня нікуды: еткая хляба на дварэ, што ні давядзі бог.* Пірагова Мсцісл. *Еткая дрэнная пагода.* Хоцімск. *Еткыя ён табе зло зьдзелыў, а ты яму дыруваць хочыш.* Слаўнае Мсцісл.

ЁТЫЙ, *займ.* Гэты. *Еты хлапец — дурань.* Хоцімск. *У етыга хлопца німа бацькі.* Кокатава Мсцісл. *Ета дзерыва прягкыя.* Хвёдараўка Краснап. *Сколькі ты хочыш за ета сена?* Касцюковічы.

ЁХЫЦЬ, *дзеясл.* Ехаць. *На етым кані дужа дрёгка ехыць вярьхом, як ны калу.* Бяседавічы Хоцім. *Дос табе спаць, пыра ўжо ехыць — уставай.* Арцёмаўка Міласл.

ЁШЧЫЙ, *прым.* Неразборлівы на яду. *Пупаўсь дужа ешчый кыбанок: што ні зымішай — усё зьесьць.* Палуж Краснап.

# Ё

Ё, *дзеясл.* Ёсць. *Ці ў цябе тыбака ё? Эге, ё!* Кокатава Мсцісл. *У мяне ё многа грошы.* Слаўнае Мсцісл. *Ё ў мяне сістра, лет ні дырысла,* || *Тая мяне ні пускала.* З нар. песні.

ЁДКА, *прысл.* Холадна і вільготна. *Ны дваре дужа ёдка, ныпряні кажух.* Маластоўка Краснап. *Сеньні дужа ёдка.* Кісялёва Буда Краснап.

ЁКАТ, -у, *м.* Іката, ікаўка [і якатанне], стогн. *Прамерз я, дык ёкыт прыняў — ніяк ні магу ўстрымацца.* Негін Касцюк.

ЁКАЦЬ, *дзеясл.* Ікаць. *Мне як станіць холадна, дык і пачынаеш ёкаць.* Канічы Касцюк.

ЁКЫТ, -у, *м.* Іката, стогн, якатанне. *Ня столькі тэй болі, як ёкыту.* Залесавічы Крыч.

ЁЛКА, -і, *ж.* Елка, ель. *Нардом абторкылі ёлкымі.* Маластоўка Краснап. *Узыбраўся на ёлку ды лумаіць веткі.* Паўлавічы Клім.

ЁЛКІЙ, *прым.* Ёлкі, прагорклы. *Масла ёлка, есьць ня можна.* Брылёўка Краснап.

ЁЛКЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Ёлкасць, гарката [прагоркласць]. *На мой смак, у етым масьлі ёсьць ёлкысьць: нясьвежыя яно.* Лешчынка Мсцісл.

ЁЛУП, -а, *м.* Ёлуп, дурань. *Ёлуп ты сьляпы, куды ты прэсься?* Парадзіна Мсцісл. *Што ты, ёлуп, рот разьзявіў — варона ўляціць!* Сохана Мсцісл.

ЁЛУПІНЬ, -пня, *м.* Ёлуп, дурань. *Разі ты зьдзелыіш, як людзі, ёлупінь бізгаловый.* Высокі Бор Краснап.

ЁЛЫЧКА, -і, *ж.* 1. Памянш. ад ёлка. 2. *бат.* Хвошч палявы. *Зь етыга туўкачыка вырысьціць ёлычка.* Хвёдараўка Краснап.

ЁМКА, *прысл.* Ёмка [зручна]. *Няёмка нейк у руках дзіржаць: усё выкручвыцца.* Залачова Мсцісл.

ЁМКІЙ, *прым.* Ёмкі [зручны]. *Грабільніца няёмкыя.* Хвёдараўка Краснап.

ЁН, яго, *займ.* Ён. *Ён памеўся прыехаць як жа ня прыедзе?* Палуж Краснап. *Ён дужа па многа есьць.* Слаўнае Мсцісл. *Там Міхасічка йдзець,* || *А ён бабу вядзець.* З нар. песні, М. Г. 1.

ЁРЗЫЦЬ, *дзеясл.* Ёрзаць, неспакойна сядзець. *Дос табе ёрзыць, ніпаседа, хуць бы ты троху пысядзеў спакойна.* Лешчынка Мсцісл.

ЁСЬЦЬ, *дзеясл.* Ёсць. *Ёсьць у мяне бацька й матка.* Сохана Мсцісл. *Цяпер рэдка ўжо носюць пістоны, алі ж ёсьць.* Палуж Краснап. *Ці ёсьць у вас чорныя гузікі? Ёсьць.* Навашоўкі Расьнян.

ЁЎНЯ, -і, *ж.* Ёўня, частка гумна [будынак у гумне] з печчу, дзе сушацца снапы. *Наша ёўня сушыць хырашо і ўмішчаіць пяцьсот снапоў.* Канічы Касцюк. *Зачыні ёўню.* Вародзькава Крыч. *Наша ёўня бальшая, там можна столькі пасушыць снапоў, што за дзень не змалоціш.* Пірагова Мсцісл.

# Ж

Ж, *часц.* Ж. *А мыя ж ты дачухна, а дайно ж я цябе ні бачыла.* Маляцічы Крыч. *Дзе ж ета ты быў, мой сынок?* Мсціслаў.

ЖА, *часц.* Жа. *Ну й дакорный жа ён!* Хвёдараўка Краснап. *Як жа ты жывеш, мыя ягыдка?* Маляцічы Крыч. *Нек жыць жа трэба!* Брылёўка Краснап.

ЖАБА, -ы, *ж.* 1. Жаба. *Рябыя халодныя жаба прыгнула мне ны нагу.* Арцёмаўка Міласл. *Жабы ў балоці кожны вечыр журчаць.* Парадзіна Мсцісл. 2. Хвароба горла. *Жаба ў глотцы — цяжкыя хвароба, дайжа можна памерці ат яе.* Пірагова Мсцісл.

ЖАБЕНІЦЦА, *дзеясл.* Упірацца, калі просяць. *Ні жабенься, а сыбірайся ды пойдзем.* Восаў Краснап.

ЖАБІНЫЙ, *прым.* Жабіны. *Жабінэй крік гылаву адуріў.* Парадзіна Мсцісл.

ЖАБІНЫЯ НАЧОЎКІ. Ракушка рачная. *Жабіных начовык поўныя пыстаньня ныьзьбіраў кыла рякі.* Каробчына Мсцісл.

ЖАБІНЯЦЦА, *дзеясл.* Жабеніцца, упірацца. *Чаго ты жабіняесься?* Хвёдараўка Краснап.

ЖАБІНЯЦЬ, *дзеясл.* Жабеніцца, упірацца. *Яго просюць, а ён яшчэ жабіняя.* Хвёдараўка Краснап.

ЖАБКА, -і, ж. Памянш. ад жаба. *Глядзі, якея маленькія жабкі, аткуль яны ўзялісь такея?* Б. Хутары Краснап.

ЖАБРАВАЦЬ, дзеясл. Жабраваць. *Етыя баба мела сваю гаспыдарку, а цяпер жабруіць.* Зарубец Крыч.

ЖАБРАК, -а, м. Жабрак. *Жабрак назьбіраў цэлую торбу хлеба.* Белы Камень Бялынкав.

ЖАБРАЦКІЙ, прым. Жабрацкі, жабрачы. *На старысьці жабрацкыю торбу дывялося надзець.* Дзіснакіта Мсцісл.

ЖАБРАЧКА, -і, ж. Жабрачка. *Жабрачка ў хату пашла, нада хлеба даць.* Юшкавічы Расснян.

ЖАВІНЫ, -аў, мн. л. бат. Ажыны. *Дзеці ныpвалі і елі ягыды жавіны.* Сохана Мсцісл. *Пайдзем заўтра ў жавіны.* Халдзееўка Краснап.

ЖАДАЦЬ, дзеясл. Жадаць, хацець. *Калі жадаюць рэзка адмовіць, дык кажуць: «Пранцы табе дам».* Гібалы Касцюк.

ЖАДАЮЧЫЙ, прым. Той, хто жадае. *Жадаючыя могуць запісацца ў прытсідаціля. Абгалашаць сьпіс жадаючых.* Пірагова Мсцісл.

ЖАДНА, прысл. Жадліва [прагна]. *Дужа голыдзен быў: ік пыставілі емя, так жадна стаў есьць.* Высокі Бор Краснап.

ЖАДНЫЙ, прым. Жадлівы [прагны]. *Ахрем дужа жадный — усе б зыбраў і таго мала.* Маластоўка Краснап.

ЖАДЫСЬЦЬ, -і, ж. Прагнасць. *Во што ныpабіла жадысьць: так 'ппіўся чужога, што й памёр.* Сохана Мсцісл.

ЖАК, -а, м. Жак, нерат з двума крыламі, рыбацкая снасць. *Ці заставіў ты, Мікола, жак?* Новыя Капачы Мсцісл. *У жак пупаў сёньня вокунь.* Касцюшкавічы Крыч.

ЖАЛ, -у, м. Крыўда [шкода]. *Жалу б ні було, каб свой конь стравіў авёс, ато чужэй.* Палуж Краснап.

ЖАЛАВАЦЬ, дзеясл. Шкадаваць. *А хто цябе жалаваці будзе?* Маластоўка Краснап.

ЖАЛЕЗА, -а, н. Жалеза. *Сырыквашнымі завуць калёсы без жалеза, без шын.* Тэкліна Смаленшчына. *Жалеза ны падоскі нада йшчэ купіць, дык і двору можна рухаць.* Мсціслаў.

ЖАЛЕЗНЫЙ, прым. Жалезны. *Ваша барына жалезныя, а ў нашый толькі кляцы жалезныя.* Тур'я Чэрык.

ЖАЛЕТКА, -і, ж. Камізэлька. *У мяне касьцюм з жалеткый, але січас жалетык ні носюць, дык і я ні напрінаю.* Гібалы Касцюк.

ЖАЛЕЦЬ, дзеясл. 1. Шкадаваць. *Іна тыкая была скнара, што хлеба жыбраку даць жалела.* Хоцімск. 2. Спачуваць, добра адносіцца. *Татка мяне жалеіць.* Багацькаўка Мсцісл. *Ні к мамухні йдзеш — к сьвякроўцы, || Там цябе жалеці ня будуць.* З нар. песні.

ЖАЛІЦЦА, дзеясл. Скардзіцца. *Дзіцёнык пабег жаліцца маткі, што яго пабілі.* Парадзіна Мсцісл. *Дычка стала жаліцца маткі, што мужык яе б'ець.* Арцёмаўка Міласл.

ЖАЛКА, прысл. Шкода. *Ты скупірда, табе й етыга жалка.* Маластоўка Краснап. *Ці ні жалка табе, Мыланка, || Што чужая радзіма абсела?* З нар. песні.

ЖАЛОБА, -ы, ж. Жалоба. *Чаго ты нешта ў чорныя нырядзілыся, можа жалобу па кім-небудзь носіш?* Слаўнае Мсцісл. *У гэтым годзе ў нас жалоба: татка памёр.* Хлышчы Мсцісл.

ЖАЛОБЛІВЫЙ, прым. Жаласны, сумны. *Жалоблівыю песьню дзеўкі зыцягнулі, аж плакыць хочыцца.* Маластоўка Краснап.

ЖАЛОБНА, прысл. Жалобна, жаласна. *Нехта дужа жалобна выў ны кладбішчы.* Слаўнае Мсцісл.

ЖАЛОБНЫЙ, прым. Жалобны, што адносіцца да жалобы. *Пріхадзіця к нам ны жалобный абед пу бацьку. Як атойдзіць пысьля сьмерці сына шэсьць нядзель, тады будзем спрыўляць па ім жалобный абед.* Слаўнае Мсцісл.

ЖАЛОСЬЛІВЫЙ, прым. Жаласлівы, чуткі да чужога гора. *Рыскажы яму ўсё тваё горя: ён жалосьлівэй чылавек — паможыць.* Палуж Краснап.

ЖАЛОСЬЦЬ, -і, ж. Жаль. *Пы сваёй жалосьці плачу.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ЖАЛУДОВЫЧКА, -і, ж. Птушка жалудоўка. *Жалудовычка стаяй ні літая.* Хвёдараўка Краснап.

ЖАЛЫБА, -ы, ж. Скарга. *За тоя, што ты мяне аблаіў, я ны цябе пыдам жалыбу ў суд.* Канічы Касцюк. *Ён прышоў ды мяне з жалыбаю ны дзяцей.* Парадзіна Мсцісл.

ЖАЛЫБІЦЦА, дзеясл. Жаліцца. *Што ты плачыш, што ты жалыбісься? Ніхто твайму горю ні пасобіць.* Хвёдараўка Краснап.

ЖАЛЫБЛІВЫЙ, прым. Жаласлівы, такі, што любіць скардзіцца, плакаць. *Яўмен жалыбіцца ны сваю жысь: такі ўжо жалыблівый чылавек.* Горкі Краснап.

ЖАЛЫВЫЦЦА, дзеясл. Скардзіцца. *Ны цябе, Іван, што-та жалывыўся мне Антон.* Канічы Касцюк.

ЖАЛЫСНА, прысл. Жаласна. *Скрыпка йграла дужа жалысна.* Сохана Мсцісл. *Іна так жалысна пела, аж, слухуўшы, плакыць хацелысь.* Арцёмаўка Міласл. *Етык жа жалысна плачыць, аж у мяне сьлёзы ныварачываюцца.* Слаўнае Мсцісл.

ЖАЛЫСЬЛІВА, прысл. Жаласна, жаласліва. *Так жалысьліва йграе, што аж сьлёзы пакоцяцца.* Парадзіна Мсцісл.

ЖАЛЫСЬЛІВЫЙ, прым. Жаласлівы. *Ён жа такей жалысьлівый; як увідзіць, што матка робіць і кряхціць, дык адбярэць з рук работу і сам зьдзелыіць.* Арцёмаўка Міласл. *Іна ж тыкая жалысьлівыя: кыта хворыга і то накорміць.* Парадзіна Мсцісл.

ЖАЛЬ, -ю, ж. і м. 1. Жаль. *Жаль агарнула серца, відзючы, як ён плачыць.* Слаўнае Мсцісл. *Агарнула серца жаль.* Сохана Мсцісл. 2. Смутак. *Дрэмліць лес, абгорнутый жалем.* Пірагова Мсцісл.

ЖАЛЬ, прысл. Шкода. *Я ўчора думыла, сягоньня гыдала, || Што ні жаль мне нікога.* З нар. песні.

ЖАЛЬНА, прысл. Жаласна. *Лукаш так жальна йграіць на скріпцы, што я чуць ні зыплакыў.* Горкі Краснап.

ЖАМІРКІ, -каў, мн. л. Выжымкі, шалупіны ад семя [жмакі, жамерыны]. *Я тро-*

*ху кынапель стыўкла, дык першы раз аб-туўкла, прасеіла, ды жаміркі сьвіньням у мяшонку ўсыпыла.* Арцёмаўка Міласл. *Адны жаміркі зысталіся.* Хвёдараўка Краснап.

ЖАМЧУ́Г, -а, *м.* Жэмчуг. *У атлысі ды ў жамчугу ходзіць.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ЖАНІ́ТБА, -ы, *ж.* Жаніцьба. *Жанітба ні дзялітба, ды пысьля жанітбы будзя дзялітба.* Багацькаўка Мсцісл.

ЖАНІ́Х, -а, *м.* Жаніх. *Мылады жаніх сядзеў зы сталом.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Німа ў мяне на ўвеце ніводныга жаніха.* Слаўнае Мсцісл. *Жаніх чырнявэй, а нявеста білянка.* Палуж Краснап.

ЖАНІ́ЦЦА, *дзеясл.* Жаніцца. *Удавец думае жаніцца.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Так падстроілі, што й ні хацеў бы, а прышлось жаніцца.* Палуж Краснап.

ЖАНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Жаніць. *Жаніць пара, а ён зь дзецьмі гуляіць.* Горня Хоцім. *Жаніў во сына, узяў сабе нявестку, дык цяперь з хаты гоніць — цесна стала.* Бясе-давічы Хоцім.

ЖАНО́ЦКІЙ, *прым.* Жаночы. *Упоцімку абуў адзін свой лапыць, а другей нейкій малый, жаноцкій, знаць, жонкін.* Арцёмаўка Міласл.

ЖАНО́ЧЫЙ, *прым.* Жаночы. *Жаночыя сарочка шыецца з двух пылавін: чэхліка і подтачкі.* Машавая Бялынкав.

ЖАНЧЫ́НА, -ы, *ж.* Жанчына, кабета. *Жанчына пашыла сыматканку.* Вінаградаў Міласл. *У етый жанчыны цікавыя спадніца.* Крычаў. *Жанчына наліла дзецям пастыялкі.* Крывы Лес Шумяц.

ЖАПЕ́НЬ, -я, *м.* Кароткая палка, якую кідаюць у каго-небудзь. *Я жапінём забію віраб'я.* Новыя Капачы Мсцісл.

ЖАР, -у, *м.* 1. Жар, гарачае вуголле. *Зыгрябі ты, дзеткі, жар у пячурку.* Краснаручча Раснян. *Засаромілась іна, як жар, стала чырвона.* Ушакі Чэрык. 2. Наганяй. *Начальнік міліцынеру дываў жару за ніпырядык.* Мсціслаў.

ЖАРА́, -ы, *ж.* Спёка [гарачыня]. *Тыкая жара стаіць, што трыва пасыхая.* Палуж Краснап.

ЖАРАБЕ́Ц, -бца, *м.* Жарабец. *Рыгор павёў свайго жарабца на выстаўку.* Башары Раснян.

ЖАРАВІ́НЫ, -аў, *мн. л. бат.* Журавіны. *Жаравіны скора пасьпеюць.* Зарубец Крыч. *Восінь ужо: жаравіны пасьпелі.* Хоцімск.

ЖАРАЛО́, -а, *н.* Жарало, ход у пограб. *Адкрый жарало, ніхай пограб прасохнець, пакуль бульбу сыпаць.* Ганнаўка Клім.

ЖАРЁБКА, -і, *ж.* Жаробка. *Наша кабыла ажырябіла жарёбку.* Слаўнае Мсцісл. *Пыдвяло бруха жарёбцы.* Хвёдараўка Краснап.

ЖАРЁУНЯ, -і, *ж.* Жароўня, ліст, на якім паджарваюць насенне. *Глядзі там, штоб семя ў жарёўні ні пыдгарела.* Краснаполле.

ЖАРІ́ШЧА, -ы, *ж.* Гарачыня. *І жарышча ж на печы, што ня можна стрываць.* Лешчынка Мсцісл.

ЖА́РКА, *прысл.* Горача, душна. *Разчыні вакно, ато вельмі жарка.* Белы Камень Бялынкав. *Жарка нешта ў хаці — атчыні-ка вакно.* Старае Сяло Мсцісл.

ЖА́РКІЙ, *прым.* Гарачы. *А ты, сонійка, ды ты жаркыя, ‖ Абагрэй маіх дзяцей.* З нар. песні.

ЖАРЛІ́ВА, *прысл.* Горача. *Дровы сухія — гыряць жарліва.* Б. Хутары Краснап.

ЖАРЛІ́ВЫЙ, *прым.* Яркі. *Каліна жарлівыя ў лузі стаіць.* Палуж Краснап.

ЖАРО́ТА, -ы, *ж.* Спёка, гарачыня. *Жарота ны дварэ, як у пеклі, ўсё смыліць.* Тур'я Краснап.

ЖАРТАВА́ЦЬ, *дзеясл.* Жартаваць. *Хлопцы зь дзеўкамі ўчора доўга жартавалі.* Сохана Мсцісл. *Дзяўчаты жартуюць.* Іванаўка Хоцім.

ЖА́РТЫ, -аў, *мн. л.* Жарты. *Гэта ж жарты, так пабіў сына, і ні кажы яму ні слова.* Лешчынка Мсцісл. *Ільля вялікій гультай: яму ўсё жарты на ўме.* Хлышчова Мсцісл. *Хаджу, хаджу па вуліцы — рассыпаны карты. ‖ Мінуюцца, мінуюцца дзявоцкія жарты.* Прыпеўка.

ЖАРЫ́НА, -ы, *ж.* 1. [Асобны] вугаль. *Выкаць з печы жарыну.* Паходавічы Чэрык. 2. Адзінокае дрэва ў полі. *На нашым полі стаіць жарына.* Тур'я Чэрык.

ЖАРЫЦЬ, *дзеясл.* Тапіць, смажыць. *Як жарыш масла, дык жыру німа, адна толькі ражынка.* Палуж Краснап.

ЖАРЯЛО́, -а, *н.* Жарало. *Жаряло засыпалось пяском.* Рэкта Раснян.

ЖАСЬМІ́Н, -у, *м.* Жасмін, язмін. *Кыла выкна расьцецъ жасьмін. Цьвяты жасьміну смашна пахнуць.* Сохана Мсцісл.

ЖАУНА́, -ы, *ж.* Жаўна (род дзятлаў). *Жаўна сядзела на суку і шукала пад карою мошак.* Сохана Мсцісл.

ЖАУРЫНАК, -нка, *м.* Жаваранак. *Ужу жаўрынкі зысьпявалі — вясна будзіць.* Касцюковічы.

ЖАУТАВА́ТЫЙ, *прым.* Жаўтаваты. *Масьлянкі — грыбы жаўтаватага цьвету.* Пірагова Мсцісл.

ЖАУТУ́ХА, -і, *ж.* Жаўтуха, жаўтачка. *Жаўтуха ныпала ны майго чылавека, каб хаця ні памёр.* Восаў Краснап.

ЖАУТУ́ШНІК, -у, *м. бат.* Жаўтушка, жаўтушнік. *Ат жаўтухі пушукай ны ялывіні жаўтушніку.* Хвёдараўка Краснап.

ЖАУЦЕ́НЬ, -ю, *м.* Жаўтушка, жаўтушнік. *Жаўцень часьценька сустрэнеце на лагу, ета невялікі цьвяток жоўтага цьвету.* Пірагова Мсцісл.

ЖАУЦЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Жаўцець, рабіцца жоўтым. *Жыта жаўцея.* Маластоўка Краснап. *Ад сухмені зялёная яр жаўцець пачала.* Сохана Мсцісл.

ЖАУЦІЗНА́ -ы, *ж.* Жаўцізна. *Нейкыя жаўцізна ны плацьця ныпала, ніяк ні атмыеш.* Шчыпаў Раснян.

ЖАХ, -у, *м.* Жах, страх. *Што там дзелыіцца — жах адзін: хлопцы пызыбівалі адзін аднаго п'яныя.* Мсціслаў.

ЖАХ, *выкл.* Жах, стук; ужываецца для азначэння раптоўнага ўдару. *А ён, нічога ня кажучы, ды жах таго па мордзі.* Палуж Краснап.

ЖАХЛІ́ВЫЙ, *прым.* 1. Палахлівы. *Сьвіньні жахлівыя — ні ўпасеш.* Хвёдараўка Краснап. 2. Скоры, спрытны на бег.

*Зьмітрок жахлівый хлопіц, ік пубяжыць — ніхто яго ні 'бгоніць.* Брылёўка Краснап.

ЖАХНУЦЬ, *дзеясл.* Выцяць раптоўна, нечакана. *Па сьпіне як жахнуў — аж іскры з воч.* Парадзіна Мсцісл. *Мікола жахнуў Мішку па мордзі, дык у таго кроў з рота пышла.* Шчыпаў Расням.

ЖАХЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Бегаць хутка. *Эйш, як ён жахыя — канём ні дагоніш.* Хвёдараўка Краснап. 2. Біць, лупцаваць, джыгаць. *Спыймаў мальца ў жыце і дывай яго жахыць палкый.* Брылёўка Краснап.

ЖАЦЬ, *дзеясл.* Жаць. *Авёс пасьпеў— жаць урэмя.* Віхраны Мсцісл. *Пыра пачынаць жаць.* Арцёмаўка Міласл. *Людзі поля жаць, а йна ў полызі ліжаць.* Прыказка. Маластоўка Краснап.

ЖБАН, -а, *м.* Збан. *Целый жбан мёду прынёс і вядро піва, будзець, знаць, вічарыну спраўляць.* Мсціслаў. *Ёсьць у мяне грошы жбан || Пыд парогым зыкыпан.* З нар. песні.

ЖБАНОК, -нка, *м.* Збанок, невялікі збан. *Карова мылыка ні даець — за дзінь маліңкій жбанок нацыркыіш.* Куркаўшчына Мсцісл.

ЖВАКІ, -ыў, *мн. л.* Ляная [лянівая], невыразная гаворка. *Мутырна слухыць жвакі дурылы етыга.* Палуж Краснап.

ЖВАЦЬ, *дзеясл.* Жаваць. *Бяззубаму цьвёрдай яды жваць нечым.* Сохана Мсцісл.

ЖВІНДЫЦЬ, *дзеясл.* Абгаворваць, разводзіць плёткі. *Як табе ня стыдна жвіндыць ны свайго тыварыша.* Слаўнае Мсцісл.

ЖВІР, -у, *м.* Жвір, буйны пясок. *Ні запускай плуг так глубока, ато жвір дыстаеш.* Шчыпаў Расням.

ЖВЯКЫЦЬ, *дзеясл.* Жвакаць, есці паволі, жаваць. *Дзіцёнык хлеб жвякыя.* Хвёдараўка Краснап.

ЖВЯНЬКЫЛА, -а, *м.* Чалавек, што гаворыць нясклaднa, часта паўтараючы адно і тое. *Ня слухыйця етыга жвяньқылу, адно й тоя трубіць.* Маластоўка Краснап.

ЖВЯНЬКЫЦЬ, *дзеясл.* Ляніва, нясклaднa гаварыць. *Ні люблю, калі ты жвяньқыіш, гыварыў ба, як людзі.* Хвёдараўка Краснап.

ЖГУЧКА, -і, *ж. бат.* Жгучка [пякучка], крапіва з дробным лісцем. *Жгучкай завецца ў нас дробная крапіва.* Пірагова Мсцісл. *Як злаўлю ў сваім садзе, дык помні, што жгучкай абстрыкыю.* Цірэні Расням.

ЖДАЦЦА, *дзеясл.* Чакаць. *Хлопчык сядзеў ны вазу і ждаўся бацькі.* Палуж Краснап.

ЖДАЦЬ, *дзеясл.* Чакаць. *Ты ж мяне абясьпечыў, абішчаў зайсьці па мяне, прымусіў ждаць і не зайшоў.* Сохана Мсцісл. *Жджы мяне, пакуль я прыду.* Дзіснакіта Мсцісл.

ЖЖАЛОБІЦЦА, *дзеясл.* Выгнуцца [увагнуцца], зрабіцца жолабам. *Дошка жжалобілась, на сонцы ліжаўшы. Начоўкі жжалобіліся.* Хвёдараўка Краснап.

ЖЖАТЫЙ, *прым.* Зжаты. *Усё жыта жжата. Стаіць вяго адзін надзел ні жжатый сярод поля.* Бяседавічы Хоцім.

ЖЖАЦЬ, *дзеясл.* Зжаць, дажаць. *Дзякывыць вам, што вы патсобілі жжаць, ато адны мы ні дыжалі б сяньні.* Сапрынавічы Мсцісл.

ЖЖУЛКУВАЦЦА, *дзеясл.* Зжалкавацца, пашкадаваць. *Жжулкуваўсь я над ім, а нада было абджыгыць зы яго штукі, штоб знаў другей раз.* Боханы Росл.

ЖЛОКТЫЦЬ, *дзеясл.* Піць многа з прагаю. *Ігнат ік пычаў жлоктыць, глёк ва-ды адзін выжлыктыў, хуць бы капля зысталысь.* Высокі Бор Краснап.

ЖЛУКТА, -ы, *м.* і *ж.* 1. Спосаб мыць бялізну (жлуктанне). *Вазьмі бочку біз дна, ныкладзі більля, ды чыгуны тры вару выльлі туды — во і жлукта.* Парадзіна Мсцісл. *Плацьця пылажылі ў жлукта.* Канава Касцюк. *У нас сыбралась многа бялізны ў жлукта.* Крычаў. 2. Жлукта, бочка, дзе запарваюць бялізну. *Хацела жлукціць плацьця, ды жлукта раскалолысь.* Гібалы Касцюк. *Нығані на жлукту абруч.* Касцюшкавічы Крыч. *Поўнае жлукта плацьця я сёньня наклала.* Кісялёва Буда Краснап.

ЖЛУКТАЦЬ, *дзеясл.* Піць без меры многа [з прагаю]. *Як пычаў з дарогі ваду жлуктаць, дык кукшыны тры выпіў.* Парадзіна Мсцісл.

ЖЛУКЦІЦЬ, *дзеясл.* 1. Жлукціць, запарваць брудную бялізну і мыць. *Сяньня будзім бялізну жлукціць.* Добрае Мсцісл. *Скора будзім жлукціць плацьця.* Зарубец Крыч. 2. Піць многа і доўга [прагна]. *Во жлукціць ваду, як конь.* Мсціслаў. *Дос табе жлукціць, пакінь мне хуць каплю.* Слаўнае Мсцісл.

ЖЛЫКТАЦЬ, *дзеясл.* Піць многа і прагна. *Дос табе жлыктаць, і другім нада, а вады большы нет.* Высокі Бор Краснап.

ЖМАКІ, -аў, *мн. л.* Жмакі. *Зывязі ў алейню кынапель, ніхай выб'юць алею, а жмакі каровым пойдуць. З кынапель мы выбілі алей, а жмакымі будзім карміць кароў.* Слаўнае Мсцісл.

ЖМЕНЬКА, -і, *ж.* Памянш. ад жменя. *Вазьмі, дзетка, жменьку гароху.* Новыя Капачы Мсцісл. *У цібе ж лёну хоць завалісь, а мне дык і жменькі шкадуіш даць.* Ушакі Чэрык. *З цэлыга сныпа выйшла адна жменька зірнят.* Лешчынка Мсцісл.

ЖМЕНЯ, -і, *ж.* Жменя, колькасць, што можна захапіць адной рукою. *У цібе ж рукі ёсьць — вазьмі жменю аўса ды пасып курам!* Ушакі Чэрык. *Дай мне жменю журавін.* Усцінавічы Краснап.

ЖМІНДА, -ы, *ж.* Жмінда, скупы чалавек. *Жмінда етый ні дасьць, у яго на кыляды сьнегу ня выпрасіць, ня то што.* Бабінкі Расням.

ЖМУРІЦЦА, *дзеясл.* Жмурыцца, закрываць вочы. *Чаго ты жмурісься нешта, вочы быляць ці што?* Гібалы Касцюк.

ЖМУРКІ, -рак, *мн. л.* Жмуркі (дзіцячая гульня). *Дывай гуляць у жмуркі: ты замжурь вочы, а я схуваюся.* Гібалы Касцюк.

ЖМУТ, -а, *м.* Жмут, пук, звязка. *Прынёс вялікі жмут лазы.* Хвёдараўка Краснап.

ЖМЫХІ, -аў, *мн. л.* [Жамерыны], жамеркі. *Прынясі дзеля кароў жмыхаў.* Тур'я Чэрык.

ЖНЕЙКА, -і, *ж.* 1. Жнейка, жняя. *Дыбраныч, жнейкі мыладыя, пыраней заўтра*

*пріхадзіця.* Меншая Багацькаўка Мсцісл. 2. Жатка [жняярка]. *У етый арцелі жнейка ёсьць, купілі ці далі ім на выплыт, толькі ўжу рукамі ня жнуць.* Арцёмаўка Міласл.

ЖНЕ́Я, -і, *ж.* Жняя, жанчына, што жне. *Матка вытыпіла печку і панісла сьнеданьне жнеям.* Пірагова Мсцісл.

ЖНІВО́, -а, *н.* Жніво, летні час, калі жнуць. *У жніво баліць у мяне сярэдзіна. Ну і павырас асот вялікій у пшаніцы, рукі паколеш у жніво.* Пірагова Мсцісл.

ЖНІЯ́, -і, *ж.* Жняя. *Жнія жнець жыта і пяець.* Бабінкі Раснян. *Узяў жняю-аднадзёнку.* Кокатава Мсцісл.

ЖНЯЯ́РКА, -і, *ж.* Жатка [жняярка]. *Сяньні трэба абжаць, а заўтра з жняяркай пойдзем.* Бобрыкі Мсцісл.

ЖО́ГА, -і, *ж.* Пякотка, пячайка. *Во барыня — пысьля чорныга хлеба яе жога пячэ!* Парадзіна Мсцісл.

ЖО́ДНЫЙ, *прым.* 1. Кожны. *Ён пычаў жодный дзень хадзіць у лес: сяньні чацьвер, а ён ад пынядзелка ўжу чатыры разы схадзіў.* Арцёмаўка Міласл. *Жодзін сам сабе харош.* Васілёўка Хоцім. 2. Ні адзін. *Ні жодныга чылавека німа, штоб ета ні скызаў.* Палуж Краснап.

ЖО́ЛАБ, -а, *м,* Жолаб, выдаўбаная калода. *Бульбу ў погрыб сыпюць праз дзеравяны жолаб.* Пірагова Мсцісл.

ЖО́ЛУД, -а, *м.* Жолуд. *Жолуд упаў з дуба ды мне на гылаву.* Кокатава Мсцісл.

ЖО́НКА, -і. Жонка. *І пытыланіла яму ўзяць такую добрую жонку.* Слаўнае Мсцісл. *Жонка пышла ў прочкі — у маткі цяпер жывець.* Арцёмаўка Міласл.

ЖО́РДКА, -і, *ж.* Жэрдка. *Вучастак агароджаны жордкамі.* Сохана Мсцісл. *Етыя жордкі дужа тонкі.* Ташна Клім. *На жордцы вісіць андрак.* Халдзееўка Краснап.

ЖО́РНЫ, -ран, *мн. л.* Жорны, ручны млынок. *Раней у жорнах малолі, а січас усе ў млынох.* Пацкава Мсцісл.

ЖО́РСТКА, *прысл.* Жорстка. *А ніхай цябе, як ты жорстка зь ім абышоўся.* Вярба Раснян.

ЖО́РСТКІЙ, *прым.* Жорсткі, грубы, цвёрды. *Абшмульгай на крюк новую вяроўку, бо яна дужа жорстка.* Папоўшчына Мсцісл.

ЖО́РЫЎ, -ва, *м.* 1. *заал.* Жуpавель. *Падстрэліный жорыў ня мог ляцець і зваліўся ны зямлю.* Сохана Мсцісл. 2. Унутраныя органы каровы: горла, лёгкія. *Жорыў у карове выкінуць.* Хвёдараўка Краснап. 3. Шкляная гарцовая пасудзіна, пляшка. *Я купіў сабе жорыў дзеля настойкі.* Людагошч Мсцісл.

ЖО́РЯ, -і, *ж.* Жарабё. *Зы кабылыю бяжыць жоря.* Маластоўка Краснап.

ЖО́ЎКНУЦЬ, *дзеясл.* Жоўкнуць, рабіцца жоўтым. *Дождж ужо залішні: ярына пачынаець жоўкнуць.* Папоўшчына Мсцісл.

ЖО́ЎТЫЙ, *прым.* Жоўты. *У рошчы суравежак многа; і красныя і жоўтыя — уcякія.* Парадзіна Мсцісл. *Сымаружка па дубровым жоўтым цьветам цьвіцець.* Хвёдараўка Краснап.

ЖО́ЎЦІНЬКА, *прысл.* Жоўценька. *Красівыя краска рымашка — беленькыя, а ў сярэдкі жоўцінька.* Арцёмаўка Міласл.

ЖО́ЎЦІНЬКІЙ, *прым.* Памянш. ад жоўты. *Курычкі — дужа смашныя грыбы. Яны жоўцінькія такія.* Хвёдараўка Краснап. *Дулькі, як пасьпеюць, бываюць жоўцінькія з краснымі бачкамі.* Парадзіна Мсцісл. *А брахнінька — сіні цьвет,* ‖ *А сястрыца — жоўцінькі.* З нар. песні.

ЖО́ЎЦЬ, -і, *ж.* 1. Жоўць. *Яго прідавіла возум — жоўць лопнула, і ён памёр.* Бяседавічы Хоцім. 2. Жоўтая фарба. *Ці ёсьць у вас жоўць і сінька?* Мацутаўка Раснян.

ЖУБРУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Жабраваць. *Да етыга сяк-так жылі, а цяпер саўсім жубрувацъ пашлі.* Журбін Бялынкав.

ЖУВА́ЧКА, -і, *ж.* Жуйка, жвачка. *Каровы пынаелісь, стыяць сібе і жувачку жуюць стоічы.* Горкі Краснап.

ЖУДА́, -ы, *ж.* Жудасць, страх. *Ік падумыю, што зіма ідзець, аж жуда бярэць. дзеці босыі, дроў ні зывізла, хуць пумірай.* Горкі Краснап.

ЖУ́ДАСЬЦЬ, -і, *ж.* Жудасць, страх. *Як падумаеш пра сваё горя, пра сваё адзіноцтва, ажна жудасьць бярэць.* Гібалы Касцюк. *С тых пор, як угледжу ружжо, дык жудысьць бярэ.* Парадзіна Мсцісл.

ЖУ́ДКА, *прысл.* Жудка, жудасна, вусцішна, страшна. *А ты, скрыпка, іграй шыбка,* ‖ *А ты, дудка, іграй жудка!* З нар песні, М. Г. 59.

ЖУ́ЛІК, -а, *м.* Жулік, злодзей. *Жулік пыдлаўчыўся ды й сьцягнуў у бабы воўну.* Клясін Краснап.

ЖУЛКУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Жалкавацца, скардзіцца, наракаць на каго. *Ніхай сыма выбіраіць, пы крайній меры, ня будзіць ны каго жулкувацца.* Арцёмаўка Міласл.

ЖУПА́Н, -а, *м.* Жупан, каптан. *Адзень сёньня жупан, ато прамокнеш ны дажджы.* Новае Сяло Мсцісл. *Надзень жупан, ато будзе халодна.* Камароўка Крыч. *Дзедаў жупан зусім стары.* Сідараўка Клім. *Мне пашылі новы жупан.* Зялёны Лес Раснян.

ЖУРАВІ́НЫ, -він, *мн. л. бат.* Журавіны. *Журавіны растуць па балотах, сярод моху.* Пірагова Мсцісл. *Дзяўчыны хадзілі ў лес у журавіны.* Маляцічы Крыч. *Я сяньні набрала кош журавін.* Пацкава Мсцісл. *Дзяўчаты, хадзем у журавіны ны балота!* Ушакі Чэрык.

ЖУРА́ВЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад жораў, журавель. *Што зы пташычка, зы журавычка* ‖ *Рана ўстаець, песьні пяець?* З нар. песні, М. Г. 84.

ЖУРА́ЎКА, -і, *ж.* Дзіцячая гульня. *Бі мячыкам жураўку ў вісачок!* Хвёдараўка Краснап.

ЖУ́РЖА, -ы, *ж.* 1. Дзіцячая цацка: косць з парасячай ці авечай нагі, у якой пракручваецца дзірка, у дзірку зацягваецца нітка. Нітку накручваюць і расцягваюць: расцягваючыся, нітка раскручваецца і прыводзіць у рух костачку. Костачка круціцца і вурчыць, «журжыць». *Зь етый костычкі зьдзелый журжу.* Горкі Краснап. 2. Распусніца. *Бегаеш позна, як журжа.* Гібалы Касцюк. *Ета ня дзеўка, а журжа.* Горкі Краснап.

ЖУРІЦЦА, *дзеясл.* Журыцца, сумаваць. *Журіцца Ігнат зы сваім сынам, што ны вайну зыбралі.* Негін Краснап.

ЖУРІЦЬ, *дзеясл.* Папракаць. *Пірістань журіць дзеўку: іна ні зыдарым хлеб твой есьць — работыіць зы дваіх.* Хвёдараўка Краснап.

ЖУРЛІВЫЙ, *прым.* Сварлівы, што заўсёды сварыцца. *Ні пытайця вячэры вы ў мяне, ‖ Пытайцеся ў журлівыга мужыка.* З нар. песні.

ЖУРТУВАЦЬ, *дзеясл.* Жартаваць. *Ён любіць журтуваць, іншый раз як прідумыіць што-небудзь, дык са сьмеху пырвацца.* Арцёмаўка Міласл.

ЖУРЫЦЦА, *дзеясл.* Журыцца, сумаваць. *Ня журыся, кума, будзе і на нашай вуліцы сьвята.* Пацкава Мсцісл.

ЖУРЫЦЬ, *дзеясл.* Папракаць. *Ён журыў сваю бабу.* Хвёдараўка Краснап. *А я яму вячэру гатую, ‖ А ён мяне журыць мыладую. ‖ А я яму вячэрыці паднашу, ‖ А ён мяне палонікым пы насу.* З нар. песні.

ЖУРЬБА, -ы, *ж.* 1. Журба, смутак. *Чаго ны цябе нывалілысь тыкая журьба? Чаго ты журісься?* Канічы Касцюк. 2. Дакор, папрок. *Жодный дзень упікаіць мне хлебым, ныдаела мне етыя журьба — пайду свайго хлеба іскаць.* Маластоўка Краснап.

ЖУТОМІК, -а, *м.* Суслік, палявы грызун. *Жутомік усё жыта папорціў.* Хвёдараўка Краснап.

ЖУЎЛАЧЧА, -а, *н. зборн.* Жаўлакі, пухліна горла. *Жуўлачча кругом глоткі абваліла, дык і есьць нільзя.* Хвёдараўка Краснап.

ЖУХНУЦЬ, *дзеясл.* Шугануць, раптоўна пабегчы гуртам. *Жухнулі сьвіньні ўдвору.* Хвёдараўка Краснап.

ЖУЧОК, -чка, *м.* 1. Казурка, жучок. *Вунь жучок нейкі пуўзець.* Журбін Бялынкав. 2. Шпілька ў косы. *Жучок адзін паціряла, дык кыса распускаіцца.* Азерцы Клім.

ЖЫБРАК, -а, *м.* Жабрак. *Жыбрак сыбраў кайстру хлеба.* Дзяніскавічы Навазыбк.

ЖЫБРАЧЫЙ, *прым.* Жабрачы. *Жыбрачый кій. Жыбрачыя торба.* Ушакі Чэрык.

ЖЫВА, *прысл.* Хутка, скора. *Што ты там дзелыіш, псіныя морда, жыва аттуль убірайсь!* Бяседавічы Хоцім.

ЖЫВАДЗЁР, -а, *м.* Разнік. *Жывадзёр зьбіраіцца рэзыць быдлу.* Палуж Краснап.

ЖЫВАКОСТКА, -і, *ж. бат.* Жывакост. *Жывакостка — белый цьвяток, пы дуброві расьцець.* Хвёдараўка Краснап.

ЖЫВАКОСЬЦЬ, -і, *ж.* Энергія, здольнасць. *Ён як работыіць, дык тыкі ў яго відна жывакосьць у руках, а ў етыга, дык рукі ляніва шавелюцца, як у сонныга — німа тэй сілы, як у тога.* Арцёмаўка Міласл.

ЖЫВАЛОМЫМ, *прысл.* Недавараным. *Мяса зьелі жываломым, у жываце дывырыцца.* Хвёдараўка Краснап.

ЖЫВАЦІНА, -ы, *ж.* Жывёла. *І каровы, і коні — жодныя жываціна ў яго дагледжыныя: накормліна і напоіна.* Б. Хутары Краснап.

ЖЫВЁЛА, -ы, *ж.* Жывёла. *За прыгоным пану плацілі аброк палатном, зярном, жывёлай альбо працавалі.* Жалезніца Краснап.

ЖЫВЕНЬКІЙ, *прым.* Жывы. *У нас адна мыладуха двыйнят радзіла, і абаі жывенькія, і растуць абаі.* Арцёмаўка Міласл. *Жывенек ня буду, калі не атплачу.* Бардзіч Краснап.

ЖЫВЕЦ, жыўца, *м.* 1. Жывец, мох зялёны лугавы. *На гэтым лузі кепская трыва, адзін жывец расьцець.* Куляшоўка Клім. 2. Дрэнна выробленая скура. *Ні купляй падмёткі з жыўцом, ато січас прамокнуць.* Слаўнае Мсцісл. *Купіў у кыпіраціві кожу, дык адзін жывец.* Хвёдараўка Краснап. 3. Жоўты пясок. *Нада ныбраць жыўцу ды пасыпыць.* Бардзіч Краснап.

ЖЫВІЛЬНЫЙ, *прым.* Жыватворны, пажыўны. *Ета жывільный дошч: пысьля яго ўсё ў полі ажывець, зазілінеіць.* Хвёдараўка Краснап.

ЖЫВІЦА, -ы, *ж.* Жывіца, смала з хвойных дрэваў. *З хваёвых камлёў гоняць жывіцу.* Барысавічы Клім.

ЖЫВІЦЦА, *дзеясл.* Жывіцца. *Толькі ў пычатку мая, калі вырастаіць у полі трыва, статку ёсьць чым на пашы жывіцца.* Сохана Мсцісл. *А быгатый дзівіцца, ‖ Чым худоба жывіцца.* З нар. песні, М. Г. 85.

ЖЫВОТ, -а, *м.* Жывот. *Наеўсь пляывык, аж живот зыбалеў.* Хвёдараўка Краснап. *Ныхыпаўся яблык, во цяпер і баліць жывот.* Пірагова Мсцісл.

ЖЫВЫЙ, *прым.* Жывы. *Ён любіць за жывое зыкалупнуць.* Куркаўшчына Мсцісл. *Ня быць табе жывому.* Цірэні Расн. *Цілімай ты ўжу скарэй, ато есьць, як ні жывой.* Арцёмаўка Міласл.

ЖЫВЫТАЦЬ, *дзеясл.* Існаваць, быць жывым. *Калі ета зробіш, ні жывытай ты ў мяне.* Хвёдараўка Краснап.

ЖЫГ, *выкл.* Азначае хуткае запальванне. *Спічка — жыг і зыгарелысь.* Слаўнае Мсцісл.

ЖЫГАН, -а, *м.* Асмалены кіёк, якім папраўляюць дровы ў печы, качарга. *Возьмі жыган і выкаці мне вугаль з печы.* Гібалы Касцюк. *Жыган чыста згарэў, нада другей зьдзелыць, ато рукі пысмаліш.* Барысавічы Краснап.

ЖЫГУЧКА, -і, *ж. бат.* Крапіва-пякучка. *Вось нарву жыгучкі ды так высьцібыю, што ні сядзіш.* Высокі Бор Краснап.

ЖЫГЫЎКА, -і, *ж. бат.* Крапіва-пякучка. *Рукі жыгыўкый абстрыкыла.* Хвёдараўка Краснап.

ЖЫДАЦЬ, *дзеясл.* Чакаць. *Кызаў, прыдзе рана, а німа, трэба жыдаць.* Старае Сяло Мсцісл.

ЖЫДКІЙ, *прым.* Рэдкі. *Была жыдкыя дрыгва, а як прывялі меліярацыю, дык стала ладныя поля.* Сохана Мсцісл. *Жыдкыя мела, нада дыбавіць, ато ні беліць.* Шарэйкі Касцюк.

ЖЫЖА, -ы, *ж.* Жыжа, агонь (дзіцячае). *Ні чыпай, дзетка лампы, там жыжа— укусіць зы пальчык.* Слаўнае Мсцісл. *Запалі жыжу.* Васілёўка Хоцім. *Глядзі: чырк — і будзе жыжа.* Азерцы Клім.

ЖЫЛА, -ы, *ж.* Жыла. *Знаць, жылу пірасёк, што так кроў сачыцца.* Гібалы Кас-

цюк. *Гэта гарэлка нішто сабе; як выпіў, так па жылам і пыйшла.* Добрае Мсцісл.

ЖЫЛІЗЬНЯ́К, -а, *м.* Жалязняк (жалезная рыдлёўка). *Пашоў кыпаць грады, ды жылізьняк зламаўся.* Кокатава Мсцісл.

ЖЫЛКУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Шкадаваць. *Айсей свайго кыня жылкуіць: быгата ні ныкладаіць, штоб ні абцяжыць.* Горкі Краснап.

ЖЫЛЬБА́, -ы, *ж.* Жальба, скарга. *Слухаю тваю жыльбу і думаю: а што б ты гуварій у маім пылажэньні?* Палуж Краснап.

ЖЫ́МАЛЫСЬЦЬ, -і, *ж. бат.* Бружмель. *На жымалысьці растуць чырвоныя, сакавітыя плады.* Сохана Мсцісл.

ЖЫНА́, -ы, *ж.* Жонка. *Чужая жына заўсёды луччы. А ты, жына, хуць ба сарочку мне дыла.* Багацькаўка Мсцісл.

ЖЫР, -у, *м.* Тлустасць [тлушч]. *Зьлі жыр у слоечык.* Палуж Краснап. *Ныскрабыла трошкі жыру з цёрла.* Пірагова Мсцісл.

ЖЫРАЛО́, -а, *н.* Жарало, ход у пограб. *Бульбу сыпюць у погрыб цераз жырало, у якое ўстаўляюць длінный дзеравяный жолаб.* Пірагова Мсцісл. *Жырало ў погрыбі вузкыя.* Барысавічы Клім.

ЖЫРЁХА, -і, *ж.* Тоўстая [поўная] жанчына. *Наша Ганна — жырёха.* Хвёдараўка Краснап.

ЖЫРЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Тлусцець, *Як сталі яго хырашо гыдуваць, дык ён стаў жырець.* Бяседавічы Хоцім.

ЖЫ́РНА, *прысл.* Тлуста. *Сяньні каша пымазына так жырна, што зь яе сала аж цякець.* Бяседавічы Хоцім.

ЖЫ́РНЫЙ, *прым.* Тлусты. *У вас жырны вапер.* Ракаўшчына Раснян. *Ой, нашоў сяньні барсука — жырный, у кымякох.* Хвёдараўка Краснап.

ЖЫРО́ЛА, -ы, *ж.* Жарало, ход у пограб. *Глядзі, не праваліся ў жыролу, бо сам з погрыба ня вылязеш.* Барысавічы Клім.

ЖЫРУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Жыраваць, сытна есці, харчавацца. *Дос ёй жыруваць, як сыр у масьлі, ніхай троху бяс хлеба пысядзіць.* Арцёмаўка Міласл.

ЖЫРЫБЯНО́К, -а, *м.* Жарабё. *Пухнач нейкі жырыбянок етый.* Хвёдараўка Краснап.

ЖЫРЯБЁНЫК, -нка, *м.* Жарабё. *Глядзі, ходзіць нечый бясплемінный жырябёнык, адбіўсь ат маткі.* Пірагова Мсцісл. *Узьдзень кашолку жырябёнку.* Горкі Краснап.

ЖЫРЯБЕ́Ц, -бца, *м.* Жарабец. *Хлопцы тубуном за дзеўкый ходзюць, як жырябцы.* Палуж Краснап.

ЖЫРЯБІ́ЦА, -ы, *ж.* Жаробка, маладая кабыла. *З твае жырябіцы ладныя кабыла вырісьціць.* Б. Хутары Краснап.

ЖЫРЯБІ́ЦЦА, *дзеясл.* Жарабіцца. *Жырябілыся такая прыгожая кусюлька, а цяпер змарнела кабылка.* Гарадок Міласл.

ЖЫРЯ́БО́К, -бка, *м.* Жарабок. *Нашыму жырябку яшчэ трі гады німа, шкода зыпрігаць.* Слаўнае Мсцісл.

ЖЫРЯБО́УКА, -і, *ж.* Жараб'ёўка. *Яшчэ жырябоўка ні была, дык ён думаў, што яму пышчасьлівіць. Дык не, выцігнуў номер такей, што йіць, ну і зыбралі, і пашоў ны вайну.* Арцёмаўка Міласл. *Жырябоўка — вешч тыкая, як каму пувязець: пупадзецца пустэй жэрібі — асвыбыдзяць, а пупыдзецца з номірум—возьмуць у сылдаты.* Бяседавічы Хоцім.

ЖЫРЯЛО́, -а, *м.* Жарало [ход у пограб]. *Сып бульбу ў жыряло.* Гібалы Касцюк. *У нашым погрібі два жырялы: у адно сыпім дробную бульбу, а ў другоя буйную.* Слаўнае Мсцісл. *Зачыні жыряло ў погріб.* Пухнава Раснян.

ЖЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Жыццё. *А няхай яе з такою жысьцяю — працуй, працуй, а хлеба німа.* Сапрынавічы Мсцісл. *Красыта мыя — жысьць дзявоцкыя, || Замуж я пайду, крысату згублю.* З нар. песні.

ЖЫ́ТА, -а, *н.* 1. *бат.* Жыта. *Жыта дзьве нядзелі кыласіцца, дзьве — цьвіцець, дзьве — ныліваіць і дзьве — зреіць.* Арцёмаўка Міласл. *Жыта ўжо жаць пыра — пасьпела.* Вярбоўка Раснян. *Жыта ўжо сазрела, скора треба пачынаць жаць.* Канічы Касцюк. 2. Жытняе зерне. *Як прыйшлось сеяць: жыта — а ні каліва!* Парадзіна Мсцісл. *Паедзім на млын жыта малоць.* Арцёмаўка Міласл. *Жыта нада ссыпаць у пірарэз.* Хвёдараўка Краснап.

ЖЫТО́МІРКА, -і, *ж.* Гатунак бульбы. *Пасеіў жытоміркі пяць мяхоў.* Хвёдараўка Краснап.

ЖЫ́ТЧЫНКА, -і, *ж.* Асобнае зерне жыта. *Пыглядзі, якія буйныя жытчынкі!* Палуж Краснап.

ЖЫУЦЯ́К, -а, *м.* Жоўты пясок. *Зімля — адзін жыўцяк: нічога ня родзіць.* Хвёдараўка Краснап.

ЖЫ́ЦЕЦ, -цца, *м. бат.* Жыцец. *Жыцец расьцец у ільне, яго нада акуратна выпалываць, ато ён засураець лён.* Пірагова Мсцісл. *Ва льну жыцца быгата.* Брылёўка Краснап.

ЖЫ́ЦІЛЬ, -я, *м.* Жылец, жыхар. *Які ўжо з яго жыціль на етым сьвеці: і стар, і слаб, і сьлеп — усё разым сыбралыся.* Слаўнае Мсцісл.

ЖЫ́ЦІЦ, -цца, *м. бат.* Жыцец. *Нада пупалоць лён, ато жыціц яго саўсім заглушыў.* Бяседавічы Хоцім.

ЖЫ́ЦІЧКА, -а, *н.* Памянш. ад жыта. *Жыцічка дысьпівая, жыўцяя.* Негін Касцюк. *Ах вы, мілыя мае бабычкі, || Вы пыжалі мае жыцічка.* З нар. песні.

ЖЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Жыцца. *Цяжка яму жывецца, як ведама, адзінокаму чылавеку.* Лешчынка Мсцісл. *Пріспасобійся ўжо, дык жывецца нішто сабе.* Бяседавічы Хоцім.

ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Жыць. *Ох! Хоць ба скарэй пакой прышоў — гэстак жа цяжка жыць хвораму чалавеку.* Ушакі Чэрык. *Наш Яшка жыве ў курніцы.* Ракаўшчына Раснян. *Пабудаваў дом, думаў жыць, а тут на — памёр.* Будагошч Мсцісл.

ЖЫЦЬЦЁ, -я, *н.* Жыццё. *Жыцьцё маё гырямычныя, хуць ба сьмерць скарей прішла!* Бяседавічы Хоцім. *У нашый хаці цыркун ні даець жыцьця — усё ўрэмя цыркаіць.* Канічы Касцюк.

ЖЭ́БРЫ, -аў, *мн. л.* Зябры, дыхальныя органы ў рыб. *Ета рыбіна ня сьвежыя, бо ў яе ўжо жэбры пыбалелі.* Сохана Мсцісл.

ЖЭЛЯЗЬНЯ́К, -а, *м.* Жалязняк (жалезная рыдлёўка). *Жэлязьняк палымаўсь, і кыпаць нечым.* Хоцімск. *Жэлязьнік тупэй, ім кыпаць нільзя.* Халдзееўка Хоцім.

ЖЭ́НЧЫНА, -ы, *ж.* Жанчына. *Нейкыя жэнчына ходзіць пы дзяреўні і жнеік ныймаіць.* Горкі Краснап.

ЖЭРАБЁНЫК, -нка, *м.* Жарабё. *Уночы ваўкі заелі жэрабёнка.* Пірагова Мсцісл.

ЖЭРАБЕ́Ц, -бца, *м.* Жарабец. *Надысь ў Жэраціне жэрабца ўкралі.* Пірагова Мсцісл. *Паехылі к бацьку нейкія ўдваіх ны бядзе, на мыладым жэрабцы.* Пірагова Мсцісл.

ЖЭРАБО́К, -а, *м.* Жарабок. *Ён у мяне аткупіў гетага жэрабка за трыста рублёў.* Пірагова Мсцісл.

ЖЭРДЗЬ, -і, *ж.* 1. Жэрдка. *Сеў абенаж на жэрдзь.* Гібалы Касцюк. 2. Рубель, жэрдка ўціскаць воз з сенам ці саломаю. *Паціху там жмі, ато жэрдзь зломіцца і воз аберніш.* Бяседавічы Хоцім. *Не забудзь, сынку, узяць жэрдзь.* Новыя Капачы Мсцісл. 3. Прыладжаная ў хаце пад столлю жэрдка, куды вешаюць адзежу (шост). *Павесь шубу на жэрдзь.* Машавая Бялынкав.

ЖЭ́РДЗЯ, -я, *н. зборн.* Жэрдзе. *Вазьмі скоблю ды йдзі скабліць жэрдзя.* Хвёдараўка Краснап. *Бацька абчышчаіць жэрдзя ат кары.* Залесавічы Крыч.

ЖЭ́РДКА, -і, *ж.* Жэрдка. *У нашым прасьлі нехта жэрдку пулумаў.* Бяседавічы Хоцім. *Праз ручэй перакінуты жэрдкі для пераходу.* Сохана Мсцісл.

ЖЭ́РІБ, -а, *м.* Жэрабя. *Янку Лукашовыму пышчасьціла: выцігнуў вялікі жэріб і астаўсь, ні пашоў у сылдаты.* Іванаўка Хоцім.

ЖЭРСТВА́, -ы, *ж.* Жарства, зярністы пясок. *Адна жэрства ат камня зыстылась.* Хвёдараўка Краснап.

ЖЭ́РЦІ, *дзеясл.* Жэрці, прагна есці. *Завыеш, як жэрці нечыга будзіць.* Серчыцы Краснап.

ЖЭРЯЛО́, -а, *н.* Жарало [ход у пограб]. *У нашым погрыбі маленькыя жэряло.* Тур'я Чэрык.

# З

З, *прыназ.* З. *Ці чулі? Уцёк разбойнік етый з турмы.* Ушакі Чэрык. *Латка ськівулась з лаўкі і разьбілысь.* Людагошч Мсцісл. *Пашыла сабе плацьця з заборымі.* Зарубец Крыч. *З ім ладзіць ці жыць хырашо зусім нільзя, ён дужа ніпыкладлівый.* Арцёмаўка Міласл.

ЗА, *прыназ.* За. *Мой бацька дыстаўшчык у кыпірацыі: прывозіць тавары із станцыі і грошы за ета бярэць.* Пірагова Мсцісл. *Я пайду за Тодыра замуж.* Барысавічы Клім. *За поўгадзіны да етыга я бачыў яго вунь на тэй вуліцы.* Мсціслаў. *За прыгоным пану плацілі аброк пылатном, зярном, жывёлай, або працувалі.* Жалезніца Крыч. *За дзеўкуй прыданства бальшоя.* Бялынкавічы.

ЗАБА́ВА, -ы, *ж.* Забава. *У вас жа тут ніякай забавы німа — усі сідзяць сонныя, як мухі.* Ушакі Чэрык.

ЗАБА́ВІЦЬ, *дзеясл.* Забавіць. *Ідзі забаў дзіцёнка, штоб ні плакаў.* Гібалы Касцюк.

ЗАБАЛЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Забалець. *Стаяла сагнуўшысь, аж сярэдзіна забалела.* Гібалы Касцюк.

ЗАБАРО́НА, -ы, *ж.* Забарона. *Сельсавет зрабіў забарону пахаць спорнае ляда.* Сохана Мсцісл.

ЗАБАСТАВА́ЦЬ, *дзеясл.* Забаставаць, адмовіцца працаваць. *У Англіі шахцёры забаставалі, дык ны паддержку нашы зьбіраюць ім грошы.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ЗАБАУЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Забаўляцца. *Унясі-ка 'ряхоў; будзім забаўляцца.* Гібалы Касцюк. *Маленькая Людвіся забаўляецца цацкамі.* Малюшын Краснап.

ЗАБЕ́ГЧЫ, *дзеясл.* Забегчы. *Міколка і Наста забеглі ў гарод і дывай рваць моркву.* Бабынічы Мсцісл. *Я, тым часым, зыбягу ў лаўку, а ты пыдажджы.* Слаўнае Мсцісл.

ЗАБЕ́Л, -у, *м.* Зашчэп у бервяне пры адпілоўванні. *Трэба ўкруміць забел у браўне.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАБЕЛЯ́НКА, -і, *ж.* Забелены малаком крупнік. *Налі мне, мама, забелянкі— я зьем трохі.* Камароўка Крыч.

ЗАБЕРАГА́ЦЬ, *дзеясл.* Захоўваць [зберагаць]. *Война заберагаець авец ад холада.* Гарманава Мсцісл.

ЗАБІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Забіваць. *Шэльма гэты, пьянюга, яму толькі людзей забіваць.* Радзівонаўка Мсцісл.

ЗАБІРА́ЦЬ, *дзеясл.* Забіраць. *Забірай усё — ні пакідай ні каліва.* Чарнарэчча Раснян. *А мы коні зыбяром, зыбяром, ‖ На коньській двор зывядзём, зывядзём.* З нар. песні.

ЗАБІ́ТЫЙ, *прым.* Забіты. *Ны дарозі ліжала забітыя вужака.* Старынкі Раснян. *Забітыга кыбына абсмалілі ў вагні.* Сохана Мсцісл.

ЗАБІ́ЦЦА, *дзеясл.* Забіцца [зваліцца, упасці]. *Нада ж тыкі такоя спачча: з крышы забіцца.* Куркаўшчына Мсцісл. *Малы Янка забіўся з пярэкліцця.* Крычаў.

ЗАБІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Забіць. *Ахотнік з руржжа забіў зайца.* Сохана Мсцісл. *Ні едзь ты цірaз гэты лес—разбойнікі там заб'юць цябе.* Ушакі Чэрык. 2. Забіць, увагнаць. *Вазьмі етый гвозд ды забі ў сьцяну.* Папоўшчына Мсцісл. *Ні забівай туга клін: лісіца расколіцца.* Ташна Клім. *Дай мне клявец забіць шпунт.* Куркаўшчына Мсцісл.

ЗАБЛУ́ДА, -ы, *ж і м.* Чалавек, што ходзіць без работы. *Ета заблуда нейкій: ходзіць во па сьвету німаведыма чаго, дзе*

*папрасіць, а дзе і ўкрадзіць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАБЛУДЗІЦЬ, *дзеясл.* Заблудзіць. *У етым лесе і заблудзіць нятрудна.* Палуж Краснап.

ЗАБЛУ́ДНЫЙ, *прым.* [Прыблудны]. *Прістаў ды нашыга статку нейкі заблудный цялёнык.* Горкі Краснап..

ЗА́БЛЫЦЬ, -і, *ж.* Каляровыя ніткі для вышывання. *У мяне німа заблаці пашыць сарочку.* Белы Камень Бялынкав. *Ганка купіла сабе заблыці і вышыла ў сароццы палікі.* Гібалы Касцюк. *Цяперя ні пышываюць сарочкі — німа добрай заблыці.* Брылёўка Краснап. *Хацеў купіць заблыць, каб дычка ныбрала сарочку, і нийдзе ў мястэчку ні нашоў.* Лешчынка Мсцісл.

ЗАБО́Й, -я, *м.* Прылада выціскаць сыр. *Прінясі забой, нада сыр выціснуць.* Бяседавічы Хоцім.

ЗАБО́ІЦ, -ойца, *м.* Забойца. *Забоіц сядзіць, а кыла яго два міліцыянеры.* Б. Хутары Краснап.

ЗАБО́ЙЦА, -а, *м.* Забойца. *Ні вяжысь зь ім: ён жа цябе зуродуя, забойца етый.* Высокі Бор Краснап.

ЗАБО́Р, -а, *м.* Агароджа, паркан. *Ён пірякінуў мяча чыріз забор.* Арцёмаўка Міласл. *Трэба купіць ны забор аполак.* Тур'я Чэрык.

ЗАБО́РА, -ы, *ж.* Забора, складка [аборка, брыж]. *Бабы носюць плацьця з заборымі.* Хвёдараўка Краснап. *Заборы ў спадніцы зынадта шырокія.* Вінаградаў Міласл.

ЗА́БРАСЬНЯ, -і, *ж.* Забарсня, абора. *Я зьвіў сабе новыя забрасьні ў лапці.* Вінаградаў Міласл.

ЗАБРЭ́МІНІЦЬ, *дзеясл.* Зацяжэць [стаць цяжарнай]. *Жонка забременіла.* Палуж Краснап. *А й з таго ж та ўдыва ды й забременіла, ‖ А радзіла ўдыва ды двух сыноў Васілёў.* З нар. песні.

ЗАБРЫТА́ЦЬ, *дзеясл.* Забратаць, надзець на каня аброць. *Вазьмі аброць і забрытай кыня.* Бяседавічы Хоцім.

ЗАБУЗУВАЦЬ, *дзеясл.* Збіць [прыбіць]. *Як спыймалі Білабуса, што ён краў, дык забузувалі чыста чуць ні да сьмерці.* Палуж Краснап. *Забузувай яго пярун.* Хоцімск.

ЗАБУРЖУ́ЕЦЬ, *дзеясл.* Зрабіцца буржуем. *Ці ж гэта твой дом? Калі ж ты пасьпеў забуржуецъ?* Мсціслаў.

ЗАБУРЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Забурыцца, заваліцца. *Слігавіна зламілысь, і стрыха забурылася.* Мсціслаў. *Хата забурылыся.* Палуж Краснап.

ЗАБУРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Забурыць, разбурыць. *Нашто ты забурыў нашы цацкі?* Пабкі Раснян.

ЗАБЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Забываць. *Дзіцёнка адлучыла ад цыцкі; ужо пычаў быў забываць, ды пылажыла спаць с сабою, а ён узяў ды выссаў.* Камароўка Крыч.

ЗАБЫЖА́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Захацець. *Яна етыга забыжаліла, як зельля якога.* Маластоўка Краснап.

ЗАБЫ́РСАЦЬ, *дзеясл.* Забарсаць, зацягнуць аборкі ў лапці. *Пыдажджы, вось толькі лапыць забырсаю ды набуюсь, тады пойдзем.* Стары Дзедзін Міласл. *Нада лапці забырсаць.* Хвёдараўка Краснап.

ЗА́БЫРСЬНІ, -яў, *мн. л.* Аборы. *Выдаты забырсьні пыпала.* Кажамякіна Краснап. *Ні так ты дзелыіш забырсьні.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАБЫУЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Забаўляцца. *Пашукай ты яго цацкі, ніхай забыўляецца.* Добрае Мсцісл. *Кыла дзвыра расьцець многа ладышніку, дзеці й забуўляюцца.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАБЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Забыцца. *Налі мне пойную чару віна — вып'ю я, каб на ўсё забыцца!* Ушакі Чэрык. *Ён дываў грошы, ды забыўся за доўг зыдзіржаць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАБЫ̂ЦЬ, *дзеясл.* Забыць. *У полі забыла я сваю лыхманіну.* Тур'я Чэрык. *Маці мыла на рэчцы бялізну і забыла там праньнік.* Гарманава Мсцісл.

ЗАБЯЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Забяліць, заправіць (страву) малаком. *Забялі крупеню пастыялкаю.* Гарбавічы Касцюк. *Крупеня зусім нішчымныя, хоць бы ты яе забяліла.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАВА́ДА, -ы, *ж.* Перашкода, завада. *Ні чыкаў я, што выйдзіць тут якая завада, думаў, пайдзець усё гладка.* Ушакі Чэрык.

ЗАВАДЭ́ВУШ, -а, *м.* Пачынальнік. *Хто ў вас быў завадэвуш у гэтым дзеле?* Сохана Мсцісл. *Ва ўсём гэтым вінават Якуб: ён завадэвуш.* Татаркавічы Мсцісл.

ЗАВАЖДЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Заляйцаць. *Заважджай ты каня, а я зыбягу ў хату тутуню вазьму, ды паедзем.* Залесавічы Крыч. *Вазьмі вожкі і заважджай каня.* Бяліщчына Мсцісл.

ЗАВАЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Заваліцца, упасці. *Ішоў, ішоў — заваліўсь у гразь.* Сохана Мсцісл. *Там на гумне стрыха заваліласъ, нада заўтрі ўлезьць паправіць.* Пірагова Мсцісл. 2. Заваліцца, залегчы. *Прыехыў ён з дарогі зморыный і заваліўсь спаць.* Пірагова Мсцісл.

ЗАВАРА́ЧЫВАЦЬ, *дзеясл.* 1. Накручваць. *Заварачывай ты анучы як сьлед, ато холадна будзе.* Прыпечына Краснап. 2. Забочваць, скіроўваць убок. *Едзь прама з гары, і там будзіць атклон управа, туды і заварачвай.* Пірагова Мсцісл.

ЗАВА́РВАЦЬ, *дзеясл.* Заварваць. *На кулеш заварваюць пшанічную муку укропым.* Гусарка Клім.

ЗАВАРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Заварыць. *Завары сьвежыга чаю.* Чарнарэчкі Раснян.

ЗАВЁЗЬЦЬ, *дзеясл.* Завезці. *Мой мужык завёз у пруд малоць жыта.* Слаўнае Мсцісл.

ЗАВЕ́ІЦЬ, *дзеясл.* Завеяць, закрыць, занесці снегам. *Панійка чуць-чуць замерзла, і сьнегум яе завеіла, дык ён як стаў ны яе, так і паехыў пад лёд.* Бяседавічы Хоцім.

ЗАВЕ́РІНЫЙ, *прым.* Завераны, засведчаны. *Ета дакумінт заверіный сельсаветум, а нада яго яшчэ заверіць Рікум.* Бяседавічы Хоцім.

ЗАВЕ́РІЦЬ, *дзеясл.* Заверыць, засведчыць. *Даведку ету нада заверіць у сельсаветі.* Новыя Капачы Мсцісл.

ЗА́ВЕРТ, -а, *м.* Заверт, вяровачная прывязь аглабель да капыла (у санях). *Папраў заверты, ато аглоблі выскачуць з саней.* Юркаўка Крыч.

ЗАВЕ́СІЦЬ, *дзеясл.* Завесіць. *Завесь вакно матаю, каб не замерзла.* Гібалы Касцюк.

ЗАВЕ́СЦА, *дзеясл.* Завесціся. *У жыці завёўся сівец.* Лешчынка Мсцісл. *Завілася на целе кырысьцянка.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАВЕ́СЫ, -аў, *мн. л.* Завесы. *Ды дзьвярэй нада новыя завесы дзелыць.* Пухнава Раснян. *Нада змазаць завесы, ато дужа скрыпяць.* Бяседавічы Хоцім.

ЗАВЕ́СЬЦІ, *дзеясл.* 1. Завесці [мець]. *Калі хочыш завесьці добрых кароў, то купі етую цялушку: яна ад добрыга бугыя.* Ушакі Чэрык. 2. Распачаць. *Аграном завёў з намі рызгавору.* Палуж Краснап. 3. Завесці. *Ён завёў мяне ў нейкыю вулычку.* Каменкі Раснян.

ЗАВЕ́ШЫНЫЙ, *прым.* Завешаны. *Стаіць кырваць і полыгам завешына.* Старае Сяло Мсцісл.

ЗАВЕ́Я, -і, *ж.* Завея, мяцеліца. *Ны дваре тыкая завея, што дарогу саўсім зымяло, сьліда ня відна.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАВІ́ДАСЬЦЬ, -і, *ж.* Зайздрасць. *Ад завідасьці, гледзячы на сваіх суседзяў, ён аж чарнея.* Сохана Мсцісл.

ЗАВІ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Убачыць. *Я цябе завідзіў, як ты толькі з лесу вышыў.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ЗАВІ́ДЗЬ, -і, *ж.* Зайздрасць. *Ат завідзі ты аж лопыісься.* Горкі Краснап.

ЗАВІ́ДЛІВА, *прысл.* Скваліва [зайдросна]. *Наверна етый хлапец галодный — так завідліва пыглідаіць, што мы ямо.* Бардзіч Краснап.

ЗАВІ́ДЛІВЫЙ, *прым.* [Сквапны], зайздросны. *Завідлівыя вочы твае, усё б ты сабе цягнула, а другім што?* Пірагова Краснап. *Ён ні завідлівый, давольствуіцца і малым.* Слаўнае Мсцісл.

ЗАВІ́ДНА, *прысл.* Зайздросна. *Яму завідна, што я быгацей зы яго.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАВІ́ДНІЧАЦЬ, *дзеясл.* Зайздросціць. *Німа навошта там завіднічаць: хата старая, скаціны добрай няма на дворы, навошта там глядзець.* Пірагова Мсцісл.

ЗАВІ́ДНЫЙ, *прым.* Зайздросны. *Якей ты завідный — увесь сьвет зыхапіў ба?* Хвёдараўка Краснап.

ЗАВІЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Завіляць. *Стоіць толькі прылашчыць сыбаку, пыгладзіць трохі, дык і хвастом завіляіць.* Ушакі Чэрык.

ЗАВІНА́ЦЦА, *дзеясл.* Завінацца, хутацца. *Ік пачнець завінацца, надзіваць ны сябе сорік адзежын, дык глядзець гідка.* Горкі Краснап.

ЗАВІНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Завінуцца, узяцца старанна за работу. *Як завінуўся, дык за дзень адзін дзесяціну грэчкі скасіў.* Сохана Мсцісл.

ЗА́ВІРТ, -а, *м.* Заверт, вяроўка, якою прывязываюць аглоблі да капыла ў санях. *Ад марозу парваўся завірт.* Крычаў. *Завірт быў слабы віріўчаный, піpярезыўся, і аглыбля ат саней атырвалыся.* Слаўнае Мсцісл.

ЗА́ВІРТА, -ы, *ж.* Заверт, вяроўка, якой прывязваюць аглоблі да капыла ў санях. *Завірта лопнула!* Бязводзічы Мсцісл. *Пырвалысь завірта ў санях.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАВІРЮ́ХА, -і, *ж.* Завіруха, мяцеліца. *Ны дваре завірюха тыкая, што сьледу ня відна.* Слаўнае Мсцісл.

ЗАВІ́СНУЦЬ, *дзеясл.* Завіснуць. *Шапка ны бярёзі завісла.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАВІ́СНЫЙ, *прым.* Зайздросны. *Пан быў дужа завісный, што ні ўбача, хочыць, каб яго було.* Палуж Краснап.

ЗАВІ́ЦЬ, *дзеясл.* Завіць. *Ты ні радуйся, зелін дуб! ‖ Ні к табе ідзём — к бярёзі, ‖ Ні цябе заўём — бярёзку.* З нар. песні.

ЗАВІШЧЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Завішчаць. *Во завішчэў, як пырасёнак у прасьлі.* Парадзіна Мсцісл.

ЗАВО́Д, -у, *м.* Завод, парода скаціны. *Етый пырасёнык добрыга заводу, глянь, якей рослый.* Арцёмаўка Міласл. *У пані Бінкіндормы пурсючка купіў ны завод.* Маластоўка Краснап.

ЗАВО́ЗНА, *прысл.* Завозна [шмат вазоў на чарзе]. *Бацька паехыў на пруд пшаніцы змалоць, ды, кажуць, там дужа завозна.* Пірагова Мсцісл.

ЗАВО́СКА, -і, *ж.* Жалезная палоска, што прымацоўваецца да восі, каб вось не сціралася. *Тут німа завоскі, нада прыстроіць.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАВО́СТРІНЫЙ, *прым.* Завостраны. *Ны магілках капліčка ёсьць, малінькыя тыкая, пысярёд магілык і крыша завострiныя.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАВО́ЧНА, *прысл.* Завочна, у адсутнасці. *Завочна яго асудзілі, ён і ня быў на судзе.* Маляцічы Крыч.

ЗАВО́ШТА, *прысл.* Завошта, за што. *І завошта ты ны яго сварысься, што ён такоя зьдзелыў?* Пабкі Раснян.

ЗАВУ́ЗДКА, -і, *ж.* Аброць. *Вазьмі маю завуздку і прывядзі кыня разым з сваім.* Зоры Чэрык.

ЗАВУ́ЗДЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад завуздка. *Пупаліў мае ўсі завуздычкі.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАВУ́ШНІЦА, -ы, *ж.* 1. Завушніца. *Глядзі ты, якея іна завушніцы сабе купіла!* Крычаў. 2. Свіная хвароба. *Нашы сьвіньні захварелі ны завушніцу.* Восаў Краснап.

ЗА́ВЫРІТ, -а, *м.* Паварот. *Нада ехыць пряма па етый дарозі, а тады будзіць завырiт управа.* Высокі Бор Краснап.

ЗАВЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Завыць, заплакаць [уголас]. *Ік сьцібануў яго пугыю, дык той і завыў.* Зарубец Крыч. *Пыглядзі-ка ты, нешта дзіцёнык завыў.* Дзягавічы Клім.

ЗАВЯЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Завязаць. *Дзяўчына завязала хустку.* Маляцічы Крыч. *Дай мне тую матузку торбу завязаць.* Куркаўшчына Мсцісл.

ЗАВЯ́ЗЫВАЦЬ, *дзеясл.* Завязваць. *Хустку завязываюць на галаву.* Канава І Хоцім. *Завязывай хучэй кайстру ды пайдзём.* Журбін. Бялынкав.

ЗАВЯЗЬЦІ́, *дзеясл.* Завезці. *Каб цябе ў магільля завязьлі!* Краснаполле.

ЗАВЯСЬЦІСЯ, *дзеясл.* Завесціся. *У Янкавых дзяцей завялась хвароба.* Чыгрынаўка Раснян.

ЗАГАВАЛЬНЯ, -і, *ж.* Прызба. *Кожны вечар сяляне зьбіраюцца к нашай хаце і сідзяць на загавальне.* Смолькаўская Буда Бялынкав. *Каля хаты зроблены загавальні.* Машавая Бялынкав.

ЗАГАД, -у, *м.* Загад. *Твайго загаду ніколі ні паслухаю, калі навыт і прасіць будзіш — нічога ня выйдзіць.* Ушакі Чэрык.

ЗАГАДАЦЬ, *дзеясл.* Задумаць, надумацца [і задаць загадку]. *Загадала баба ехыць у горад, нягледзячы на такую дрэнную пагоду.* Сохана Мсцісл.

ЗАГАДЗЯ, *прысл.* Загадзя, наперад. *Нечага загадзя хваліцца.* Дубеец Касцюк. *Загадзя ты прышоў ка мне — трэба было яшчэ пачакаць дні сы два.* Ушакі Чэрык.

ЗАГАМАНІЦЬ, *дзеясл.* Загаварыць. *Наш Янка загаманіў праразьліва на трэцім годзе.* Варанёва Крыч.

ЗАГАНА, -ы, *ж.* Загана, недахоп. *У нашыга кыня адна загана: ён дужа пужлівый.* Сохана Мсцісл.

ЗАГАНІЦЬ, *дзеясл.* Заганіць, знайсці шмат недахопаў. *Заганіў ён майго каня: і худэй, і ня есьць, і ні бяжыць — зусім нікуды ні варты.* Варанёва Крыч.

ЗАГАРАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Загарадзіць. *Загарадзі паркан на дварэ.* Кажамякіна Чэрык. *Загарадзіце вы сваё прясла, ато сьвіньні лазяць у вагарод.* Бялішчына Мсцісл.

ЗАГАРОДЗЬДЗЯ, -я, *н.* Загароддзе, месца за агародам. *Бульба пасеіна ны зыгародзьдзі. Бацька сёньні пыхаў зыгародзьдзя.* Палуж Краснап.

ЗАГАРОДЖАНЫЙ, *прым.* Загароджаны. *Двор загароджан праслам.* Халдзееўка Хоцім.

ЗАГАТОЎЛЕНЫЙ, *прым.* Падрыхтаваны, нарыхтаваны. *На крышу загатоўлен ряшэтнік.* Машавая Бялынкав.

ЗАГВЫЗДКА, -і, *ж.* Загваздка. *Глядзі, загвыздкі ці цэлы, каб каткі не паспадалі.* Крычаў. *Стой, нейдзе загвыздку паціраў — каток зваліцца.* Пірагова Мсцісл. *Глядзі, загвыздкі каб не пагубіў, ато каткі пызвальваюцца.* Барысавічы Клім. *Загвыздка калі выскачыць, дык туга будзіць з возым.* Бязводзічы Мсцісл.

ЗАГІБІНА, -ы, *ж.* Закавыка, нечаканая перашкода. *Тут дзела ні так проста, як кажыцца, нейкыя загібіна ёсьць, нада быць начыку.* Бяседавічы Хоцім.

ЗАГІНУЦЬ, *дзеясл.* Загінуць, прапасці. *Загінуў недзя наш сынок, ужо трэці год пра яго нічога ня чулі.* Ушакі Чэрык. *Во німа тапара, дзе-та загінуў.* Дубеец Касцюк.

ЗАГЛЕДЖЫНЫЙ, *прым.* Угледжаны, заўважаны. *Там у кусьце загледжыныя гнізло: я ўчора яго заглядзіў.* Горкі Краснап.

ЗАГЛЕДЗІЦЬ, *дзеясл.* Заўважыць, убачыць. *Бацька яшчэ здаліку заглядзіў выйка.* Палуж Краснап.

ЗАГНЕТ, -а, *м.* Загнетак. *Вынь гаршчок з вадою з печы і пыстаў яго ны загнеце, каб выда не застыла.* Усполле Раснян. *Ні стаў на загнет, бо пракісьнець.* Тэкліна Шумяц. *Пастаў етый цугун на загнет.* Пірагова Мсцісл.

ЗАГНЕТКА, -і, *ж.* Загнетка. *Падымі мне чугун, ны загнетку.* Бяседавічы Хоцім. *Бульба стаіць ны загнеткі.* Хоцімск.

ЗАГНЕТНІЦА, -ы, *ж.* Ямка [пячурка] збоку загнетка. *Баба зыгарнула жар у загнетніцы.* Горы Краснап.

ЗАГНІЛЫЙ, *прым.* Загнілы. *Етый дуб ужу загнілый — дужа старый.* Палуж Краснап. *Выда ў лузі загнілыя — карова ні хочыць яе піць.* Горкі Краснап.

ЗАГНІЦЦА, *дзеясл.* Загніцца. *Многа яблык загнілісь і пайшлі ў брак.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАГНІЦЬ, *дзеясл.* Загніць, пачаць гніць. *Бульба ў погрыбі загніла, нада пірібраць.* Крычаватка Раснян.

ЗАГНУТЫЙ, *прым.* Загнуты. *Ён глядзіць нешта як коса, і вочы троху косы, і адна брыва ўверьх, а другая ўніз неяк загнута.* Арцёмаўка Міласл. *Загнутый канец дрота можна зычапіць за бірвяно.* Бяседавічы Хоцім.

ЗАГНУЦЦА, *дзеясл.* Загнуцца. *Добра загнуўся гэты вяз.* Ташна Клім.

ЗАГНУЦЬ, *дзеясл.* Загнуць. *Я нідаўна толькі загнуў вязкі ў сані.* Крычаватка Раснян.

ЗАГОЙВАЦЦА, *дзеясл.* Загойвацца, зажываць. *Рана пачыла загойвацца.* Сохана Мсцісл.

ЗАГОН, -а, *м.* Загон, частка шнура зямлі. *Загон бульбы за дзень выкапалі.* Залькова Раснян.

ЗАГРАДКІ, -дак, *мн. л.* Месца на печы [у куце]. *Забраўся ў заградкі і плача.* Аршаншчына.

ЗАГРАХАТАЦЬ, *дзеясл.* Застукацець [загрукацець]. *Кулямёт заграхатаў і пасыпалісь кулі.* Рэкта Раснян.

ЗАГРЫБАЦЬ, *дзеясл.* Заграбаць. *Загрыбай, маці, жар, жар, ‖ Калі табе дачкі жаль, жаль.* З нар. песні.

ЗАГРЫВАК, -ыўка, *м.* Загрывак, патыліца, карак. *Дысталося яму пы загрыўку!* Палуж Краснап.

ЗАГРЫЗЬЦЬ, *дзеясл.* Загрызці. *У нашай дзярэўні воўк трох авечак загрыз.* Барысавічы Клім.

ЗАГРЭЦЬ, *дзеясл.* Гвазлануць, выцяць. *Разазьліўсь ды загрэў яму такую аплявуху, што з воч іскры пасыпылісь.* Старае Сяло Мсцісл.

ЗАГУБА, -ы, *ж.* Загуба [пагібель]. *Біз дарогі ехыць — ета загуба адна.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАГУБІЦЬ, *дзеясл.* Загубіць. *Етый разбойнік ні дну душу загубіў.* Варанёва Крыч.

ЗАГУВАЛЬНЯ, -і, *ж.* Прызба. *На загувальні сядзела АрІна і голысна плакала.* Лешчынка Мсцісл.

ЗАГУДЗЕЦЬ, *дзеясл.* Загудзець, загусці. *Струны загудзелі, зазьвінелі.* Сохана Мсцісл.

ЗАГУДЗІЦЬ, *дзеясл.* Загудзіць, выставіць з нядобрага боку, абгаварыць. *Хацелі ды нашыя Веры сваты пріціць, ды*

*злэя суседзі атраілі, загудзілі дзеўку.* Ґарбавічы Қасцюк.

ЗАГУ́НА, -ы, *ж.* Загана. *Рваныя сьвітка — ні загуна.* Гібалы Касцюк. *Ну йкая ў етый дзеўцы загуна, што ты ня хочыш яе брацьʼ?* Хвёдараўка Краснап.

ЗАГУРТУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Загартаваць, зрабіць цвёрдым. *Твой тапор мяккій, треба яго атнесьць к кывалю ды загуртуваць.* Гібалы Касцюк.

ЗА́ГЫДЗЯ, *прысл.* Загадзя, заўчасна, наперад. *Нада загыдзя лучыны ныськіпаць, і ніхай ляжыць і сохніць, а ня то што жодзін раз, калі паліць, тады і шчыпаць.* Арцёмаўка Міласл. *Ня стоіць табе загыдзя турбувацца зь ядой, можа ішчэ твае госьці ні пріедуць.* Слаўнае Мсцісл.

ЗА́ГЫРЫДЗЬ, -і, *ж.* 1. Загародка, загон для скаціны. *Завёў кыня ў нашу загырыдзь і пасець сабе.* Бяседавічы Хоцім. *Нада тут загырыдзь зьдзелыць, тут трыва харошыя, можна будзіць коні няпутыныя пускаць і жырібят.* Арцёмаўка Міласл. 2. Агароджа. *Зыгырыдзь кругом саду цягнулысь вярсты ны чатырі.* Слаўнае Мсцісл.

ЗА́ДАБРА, -ы, *ж.* Закраса, затаўка, прыправа. *Німа задабры, гаршка зыдабрыць нечым.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАДАВА́ЦЦА, *дзеясл.* Задавацца, быць высокай аб сабе думкі. *Я і сама змагу ад іх атбряхацца, няхай дужа не задаюцца.* Пірагова Мсцісл.

ЗАДАВІ́ЦЦА, *дзеясл.* Павесіцца. *Задавіцца б ат етыга жыцьця абрыдлага!* Сохана Мсцісл.

ЗАДАЎБА́ЦЬ, *дзеясл.* Задзяўбаць, закляваць. *Нашыга пеўня чужыя чыста задаўблі.* Тур'я Краснап.

ЗА́ДАЦЬ, *дзеясл.* Задаць. *Задам я яму пуду!* Палуж Краснап.

ЗАДЗЕ́ЛЫЦЦА, *дзеясл.* Урабіцца, упэцкацца. *Ой, як ты ў пакульля задзелыўся!* Брылёўка Краснап.

ЗАДЗЕ́ЛЫЦЬ, *дзеясл.* Залапіць. *Нада задзелыць шчэрбу ў цугуне.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАДЗЕ́РЖЫНЫЙ, *прым.* Затрыманы. *У сільсавет прівялі задержыныга кыныкрада.* Б. Хутары Краснап.

ЗАДЗЕ́РЖЫЦЦА, *дзеясл.* Затрымацца. *Я ехыў вярьхом, дык конь калі пыляціць наўскыч — я чуць-чуць задзержыўся.* Слаўнае Мсцісл.

ЗАДЗЕ́РЛІВЫЙ, *прым.* 1. Задзірлівы, задзірысты. *Задзёрлівый чылавек етый Лявон — яму слова ні скажы.* Хвёдараўка Краснап. 2. Не прастаслойны [пра дрэва]. *Пупалысь палена задзёрлівыя, ні рыскалоць.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАДЗЕ́ШЫВА, *прысл.* Затанна. *Задзёшыва ты атдаў свайго кыня; рублёў з дваццыць паціряў.* Маластоўка Краснап.

ЗАДЗІРА́ЦЬ, *дзеясл.* Задзіраць. *Мядзьведзь скот пычаў задзірацъ, нада аблаву зьдзелаць.* Цёмны Лес Раснян.

ЗАДЗІ́РЬЧЫВЫЙ, *прым.* Задзірлівы. *Задзірьчывый хлопіц — усіх забіжаіць.* Б. Хутары Краснап.

ЗАДЗЯЎБСЬЦІ́, *дзеясл.* Задзяўбаць. *Трэба ж-ткі! Задзяўбсьці да сьмерці.* Тур'я Краснап.

ЗА́ДНІЙ, *прым.* 1. Задні. *У калёсых задніяя каткі большыя, чым пяреднія.* Парадзіна Мсцісл. *Пірад ім жа ён гатоў ны задніх лапах скыкаць.* Ушакі Чэрык. 2. Мінулы, які ўжо прайшоў. *Успомніў ён задняе, што было пяць год назад, і шкода стала.* Ушакі Чэрык.

ЗАДО́РЛІВЫЙ, *прым.* 1. Задзірлівы. *Ён задорлівый чылавек, яму й слова ні скажы.* Хвёдараўка Краснап. 2. Не прастаслойны (пра дрэва). *Етыя лясіна задорлівыя, плоха кыра дзярэцца.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАДО́ЎКА, -і, *ж.* Вяроўка, якою звязваюць воз. *Абкруці задоўкаю воз, ато салома рассыпіцца.* Бабынічы Мсцісл. *Не цягні так, бо задоўку парвеш — іна ўжо старыя, някрепкыя.* Крычаў. *Вазьмі задоўку і ўкруці хырашэнька воз, каб сена ні рассыпалыся.* Слаўнае Мсцісл.

ЗАДРО́ЧЫНЫЙ, *прым.* Змораны, змардаваны. *Прышоў з работы задрочыный.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАДРО́ЧЫЦЦА, *дзеясл.* Змарыцца. *Я сяньні дужа задрочыўся, араўшы: дужа ўпякло, прама нільзя ўшчапіць плугым.* Серчыцы Краснап.

ЗАДРО́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Змарыць. *Задрочылі яго работыю, ходзіць хлопіц задрочыный.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАДРЫМА́ЦЬ, *дзеясл.* Задрамаць. *Я толька задрымаў, і вы прышлі.* Крычаў.

ЗАДРЫ́НКАЦЬ, *дзеясл.* Задрыжаць, затрымцець. *Задрынкылі тваe ногі.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАДУБЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Задубець, замерзнуць [зацвярдзець]. *Ад марозу рукі задубелі — ні рызагнуць.* Парадзіна Мсцісл.

ЗАДУБІ́НІЦЬ, *дзеясл.* Засватаць. *Яе ўжо задубінілі.* Маластоўка Краснап.

ЗАДУ́МАЦЬ, *дзеясл.* Задумаць. *Што задумаў, то і зрабіў.* Сохана Мсцісл.

ЗАДУМЛЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Задумленне [задуменнасць]. *Сядзіць дзяўчына ў задумленьні і працу выпусьціла з рук.* Сохана Мсцісл.

ЗАДУ́МЛІВЫЙ, *прым.* Задумлівы, задуменны. *Задумлівыя дзеўка: задумыіцца і нічога ні бачыць і ні чуіць.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАДУ́МЫЦЦА, *дзеясл.* Задумацца. *Нада ж так задумыцца, што і ны работу забыўся.* Залькова Раснян. *Аблёгся на руку дый задумуўсь.* Брылёўка Краснап.

ЗАДУ́МЫЦЬ, *дзеясл.* Задумаць. *Задумылі мы свой сад атыніць, каб пы яблыкі ні лазілі.* Ушакі Чэрык.

ЗАДУ́РІВЫЦЬ, *дзеясл.* Задурваць, дурыць. *Дос яму атуманівыць нас, нечыга нам голывы задурівыць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАДУРІ́ЦЬ, *дзеясл.* Задурыць. *Задуріў мне гылаву пры разьліку і ні дыдаў-такі паўрубля.* Слабада Раснян.

ЗАДУ́ЦЬ, *дзеясл.* Задзьмуць. *Веціp як задуў сы ўсяго ампэту, дык чуць ні абярнуў капу.* Кокатава Мсцісл.

ЗАДЫ́ШКА, -і, *ж.* Задышка. *Мяне ўзіла задышка, ні магу аддыхыцца.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАЕ́ДКІ, -ыў, *мн. л.* Закуска. *На выпійку сыбраў, а ны заедкі ні 'сталысь.* Краснаполле.

ЗАЕ́ДНА, *прысл.* Па-таварыску, па-прыяцельску [заадно]. *На фронці етый туварыш заедна з маім сынам жыў.* Нова-Ельня Краснап.

ЗАЕ́ЗД, -а, *м.* 1. Дом у горадзе, куды за плату пускалі нанач з канём. *Там у горыдзі заезд ёсьць; руб заплоціш, дык і піріначуіш.* Арцёмаўка Міласл. 2. Заезд, гасціна. *Жонка люба длі савету, а цешча — длі заезду.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ЗАЕЗЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Заязджаць. *Заезжай, калі трапіцца.* Паходавічы Чэрык.

ЗАЕ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Заесці, замучыць дрэннымі адносінамі. *Ажаніўся другі раз, дык мачыха заела пасынка проста.* Парадзіна Мсцісл.

ЗАЕ́ХЫЦЬ, *дзеясл.* Заехаць. *Заехылі пы дарозі да Сьціпана ды зыбавіліcь трохі.* Юркаўка Крыч. *Мы к ім заехалі па неабходнасьці: нада было старгувацца аб каню.* Пірагова Мсцісл. *Во разьзявіў рот, хоць з калёсамі заедзь.* Ушакі Чэрык.

ЗАЖДА́ЦЬ, *дзеясл.* Пачакаць. *Зажджы мяне троху, пакуль я схаджу ў воласьць.* Маластоўка Краснап.

ЗАЖМУ́РКІ, -аў, *мн. л.* Жмуркі [схованкі]. *Дывайця гуляць у зажмуркі.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАЖУРІ́ЦЦА, *дзеясл.* Зажурыцца, засумаваць. *Пятрок зажуріўся, што сына ны вайну пагналі.* Гібалы Касцюк. *Чаго ты зажурыўся, хлопча?* Іванаўка Хоцім.

ЗАЗЕ́МІНА, -ы, *ж.* Кладзь, доўгае бервяно, што кладзецца ў гумне праз усю сцяну паверх шулаў, а на яго ўжо кладуцца слегавіны. *Пыд лімягі ці сьлегі нада класьць заземіну.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАЗНО́БУШКА, -і, *ж.* Зазноба, каханка. *Пысаджу жану ў мыліван чавён, ‖ І пушчу чавён ны Дунай-ряку; ‖ Сам пайду глядзець, як чавён плувець, ‖ А жына сядзіць, як лябёдычка, ‖ А мне молыйцу ўсё зазнобушка.* З нар. песні.

ЗАЗЬВІНЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Зазвінець. *Як покня ён мяне па вуху, дык аж зазьвінела.* Палуж Краснап. *Зазьвінелі, загудзелі струны.* Сохана Мсцісл.

ЗАЗЬНІБЕ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Захаладаць. *Верна, зіма скора наступіць, калі так рана зазьнібела.* Дубеец Касцюк. 2. Зашчымець, забалець. *Зазьнібела маё серца ад вялікага гора.* Сохана Мсцісл.

ЗАІ́ГРЫВАЦЬ, *дзеясл.* Заляцацца, пускацца ў залёты. *У цябе адзін юр на ўме — усё з дзіўчатымі б заігрываў.* Слаўнае Мсцісл.

ЗАІ́ДЗЬ, -і, *ж.* Заедзь. *Етый конь дужа ўжу старій — глядзі, во заідзь якея.* Б. Хутары Краснап.

ЗАЙГРА́ЦЬ, *дзеясл.* Зайграць. *Ты зайграй, а мы паслухаем, як ты йграеш.* Дзеражна Касцюк.

ЗАЙЗДРО́СНЫЙ, *прым.* Зайздросны. *Хведар вельмі зайздросны чылавек.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ЗА́ЙЗДРЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Зайздрасць [зайздроснаць]. *У яго нейкыя шалёныя зайздрысьць на чужоя: як угледзіць што, дык аж дрыжыць.* Старае Сяло Мсцісл.

ЗА́ЙЗДРЫЦЦА, *дзеясл.* Зайздросціць, квапіцца [зайздроснічаць]. *На чужое нечыга зайздрыцца.* Слабада Раснян.

ЗАЙМА́ЦЬ, *дзеясл.* Займаць. *Кросны займалі ўсю хату.* Ропцы Раснян. *Абраныя ў прызідзіум, займіця свае месцы.* Мазалава Мсцісл.

ЗАЙСЬЦІ́, *дзеясл.* Зайсці. *Нельга ў лазьню зайсьці — кастрою ўсё засыпана ля дзьвярэй.* Маркаўка Хоцім.

ЗАЙЦІ́, *дзеясл.* Зайсці. *Нада зайці ў сталоўку ўзяць кыўбасы ны закуску.* Мсціслаў. *Колькі разоў зьбіраўся зайці, ды ўсё ні час.* Пірагова Мсцісл. *Ты, хлопча, грабі хутчэй сена, ато сонца зайдзя.* Горкі Краснап. *Сонца яшчэ ні зайшло, як мы прыехалі з Клімавіч.* Турэйск Краснап.

ЗАЙЦІ́СЯ, *дзеясл.* Зайсціся, забалець ад холаду. *Зайшліся рукі ад марозу, што ні магу 'тырваць.* Парадзіна Мсцісл.

ЗАЙЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Зайсціся, заплакаць да сударгі. *Ні дывай дзіцёнку зайціцца.* Хвёдараўка Краснап. *Дзіцёнык зайшоўсь ад плачу, пасінеў увесь.* Васілёўка Хоцім.

ЗАЙЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Зайсці. *Ішоўшы ў лес, я ні магу зайціць на луг, мне так нязручна.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАІ́ЧЧАЯ КАПУСТА, *бат.* Заячая капуста. *Заічча капуста вырыстаець па межах у полі. У яе шырокія лісты і растуць усі кучкай, з аднаго корыня.* Пірагова Мсцісл.

ЗАЙЧЫЙ, *прым.* Заячы. *Зайчы сьлед ны сьнягу відзен.* Вітрунь Касцюк.

ЗАЙЧЫНЕ́НЫК, -а, *н.* Зайчанё. *Зайчыха з зайчынятымі паскыкала, знаць, нейдзе ў другоя мейсца піраводзіць іна іх.* Стары Дзедзін Міласл.

ЗАЙЧЫХА, -і, *ж.* Зайчыха. *Сяньні Рыгор Міхасёў забіў старую зайчыху — пыд кустом спала.* Затоны Раснян.

ЗАКАЗА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Абвясціць [аб'явіць]. *Ідзі закажы ўсім, каб скарэй ішлі на сходку.* Сохана Мсцісл. 2. Заказаць, зрабіць заказ. *Заказаў сабе боты новыя, на етый нядзелі будуць гатовы.* Сохана Мсцісл.

ЗАКАЛО́ЦЬ, *дзеясл.* Закалоць. *Кабана нада закалоць, есьць ужо пірістаў.* Пірагова Мсцісл.

ЗАКАЛУПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Сказаць рэзка, упікнуць. *З ім гавары ды асьцірыгайсь, бо кылі зыкалупіць за жывое, дык ня горш, як іголкаю.* Куркаўшчына Мсцісл.

ЗАКАЛЫХА́ЦЬ, *дзеясл.* Закалыхаць, усыпіць калыханнем [гушканнем]. *Палажы дзіцёнка ў люльку і закалышы яго.* Гарбавічы Касцюк.

ЗАКАНДРЫ́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Зарэзаць. *Пітуха закандрычылі і зрабілі расол з перчыкам і цыбулькаю.* Куркаўшчына Мсцісл.

ЗАКАСА́ЦЬ, *дзеясл.* Закасаць. *Закасай рукавы, ато ўсё замажаш.* Сутокі Мсцісл.

ЗАКАЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Закаціць. *Трэба закаціць на пяньку гняты, штоб яна схавалась у ваду.* Зоры Крыч.

ЗАКА́ШЛЯЦЦА, *дзеясл.* Закашляцца. *У старыка ўжо адышка большая, чуць пройдзіць троху, дык так і закашляўся.* Добрае Мсцісл.

**ЗАКВЫХТАЦЬ,** *дзеясл.* Заквахтаць. *Калі курыца заквохчыць, дык яе нада садзіць на яйцы.* Пірагова Мсцісл.

**ЗАКІДАЦЬ,** *дзеясл.* Закідаць, засмяціць. *Усю хату сваімі запісанымі лахлеткамі закідаў, прыбраў бы хоць за сабою.* Барысавічы Клім. *Дзеці ўсю сьцяну закідалі гразёю.* Паўлавічы Клім.

**ЗАКІНУЦЦА,** *дзеясл.* Закінуцца, згубіцца. *Помаз некуды закінуўсь, што ні найці.* Хвёдараўка Краснап.

**ЗАКІНУЦЬ,** *дзеясл.* Закінуць. *Куды ты закінуў мой цапок?* Тур'я Чэрык. *Уклаў у кайстру хлеба ды й закінуў за плечы.* Касцюковічы Крыч.

**ЗАКІПЯЦІЦЬ,** *дзеясл.* Закіпяціць. *Закіпяцілі поўный цугун вады.* Пірагова Мсцісл.

**ЗАКЛАДЗІНА,** -ы, *ж.* Падваротня, дошка, што кладзецца пад вароты. *Закладзіну пыд вароты закладзі, штоб сыбака ня выліз.* Іванаўка Хоцім.

**ЗАКЛАДЗІНЫЙ,** *прым.* Закладзены. *Пыдваротніца ні была закладзіна, і ён выскачыў пыд вароты.* Бяседавічы Хоцім.

**ЗАКЛАПАЦІЦЦА,** *дзеясл.* Занепакоіцца. *Матка заклапацілася, чакаючы сына з дарогі.* Сохана Мсцісл.

**ЗАКЛАСЦЬ,** *дзеясл.* Залажыць. *Закладзі там, сынку, вяроўку.* Новыя Капачы Мсцісл. *Закладзі там лучый канат.* Ташна Клім.

**ЗАКЛІНЫК,** -нка, *м.* [Запатылак], клінок, што забіваецца паміж кассём і хамуцікам, каб замацаваць шыйку касы. *На мылаток ды зыгані кряпчэй заклінык, штоб кыса ні шыталысь.* Хвёдараўка Краснап.

**ЗАКЛУМА,** -ы, *ж.* Заблытанасць, затлума, стан, калі ў якой-небудзь справе ніяк не дабярэшся парадку. *Во заклума, дык заклума, канцоў-пачаткаў і ні відаць.* Казённая Буда Краснап.

**ЗАКОН,** -у, *м.* Закон. *Яго слова нірушыма, як скажыць, дык — закон.* Арцёмаўка Міласл.

**ЗАКОНЧЫЦЬ,** *дзеясл.* Скончыць. *Сыпяшыць некуды, мы і спыхвыля ету працу сёньня закончым.* Канічы Касцюк.

**ЗАКОНЬНІК,** -а, *м.* Чалавек, што знае законы. *Тожа законьнік знашоўсь, расказвыіць, быццым і ў самым дзелі многа знаіць законаў.* Арцёмаўка Міласл.

**ЗАКОСЬНІК,** -а, *м.* [Запатылак], клінок, што забіваецца паміж кассём і хамуцікам, каб замацаваць шыйку касы. *Касец, закосьнік вываліўся!* Бязводзічы Мсцісл.

**ЗАКРІЧАЦЬ,** *дзеясл.* Закрычаць, крыкнуць. *Сонныму нешта павідзілась, дык і закрічаў.* Арцёмаўка Міласл.

**ЗАКРУТКА,** -і, *ж.* 1. Закрутка, дзеравяны запор у дзьвярах. *Зачыні дзьверы на закрутку, каб сьвіньні ня ўлезьлі.* Слаўнае Мсцісл. *Вароты зачыніты на закрутку.* Паходавічы Чэрык. 2. Палка, якой закручваюць вяроўку. *Воз трэба закруткый закруціць, ато рассыпіцца сена.* Хвёдараўка Краснап.

**ЗАКРУЦІЦЬ,** *дзеясл.* Закруціць. *Нізашто хлыпца за вуха закруціў.* Залесавічы Крыч. *Закруці канец вяроўкі, каб ня выскачыў.* Гарадок Міласл.

**ЗАКРУЧВАЦЬ,** *дзеясл.* Закручваць. *Закручвай мацней вяроўку зы канец жэрдзі, каб не разьехылысь.* Бялішчына Мсцісл.

**ЗАКРЫВАТАЦЬ,** *дзеясл.* Помсціцца. *Сусед закрыватаў ны нас і падстрэліў сына.* Гарадзец Бабр.

**ЗАКРЫВАЦЦА,** *дзеясл.* Зачыняцца. *Дзьверы плотна закрываюцца ў прытылкых.* Пухнава Раснян.

**ЗАКРЫЦЦА,** *дзеясл.* Закрыцца. *Вочы мае, вочы ясныя, || Чаго рана вы закрыліся?* З нар. песні.

**ЗАКРЫЦЬ,** *дзеясл.* Закрыць, захаваць. *Сяньні нада цяплей апрынацца: сібірка такая, што закрый бог!* Пірагова Мсцісл.

**ЗАКРЫЧАЦЬ,** *дзеясл.* Закрычаць. *Ён закрычаў на яе і дужа аблаяў.* Пірагова Мсцісл.

**ЗАКУКУВАЦЬ,** *дзеясл.* Закукаваць. *Зязюля закукувала.* Мсціслаў.

**ЗАКУРЫЦЬ,** *дзеясл.* Закурыць. *Дай, братка, закурыць!* Ушакі Чэрык. *Ці няма ў цябе, ноўды, закурыць?* Мсціслаў.

**ЗАКУС,** -у, *м.* Закуска. *Баба ны закус дыла шкварык сала.* Палуж Краснап.

**ЗАКУСАЦЬ,** *дзеясл.* Закусаць. *Праз лес ехылі, дык коні чыста авадзён закусаў.* Малашкавічы Клім.

**ЗАКУСКА,** -і, *ж.* Закуска. *Біз закускі дык і выпіўка ня йдзець.* Крычаў.

**ЗАКУСЫЦЬ,** *дзеясл.* Закусваць. *Закусыйця, госьцікі мае, закусыйця-тыкі добра.* Бель Мсцісл. *Пі, мыладзец, а зялёныя віно, || А закусый белым сахарцым.* З нар. песні.

**ЗАКУСЬ,** -і, *ж.* Закуска. *Выпіўка была добрыя, а закусь — ірунда.* Маластоўка Краснап.

**ЗАКУТАЦЬ,** *дзеясл.* Зачыняць. *Закутай дзьверы зы сабою.* Кокатава Мсцісл.

**ЗАКУТЫНЫЙ,** *прым.* Зачынены. *Якій ета ў хаці смурод, верна, комін закутын.* Канічы Касцюк.

**ЗАКУТЫЦЦА,** *дзеясл.* Захутацца, цёпла апрануцца. *Ты так закуталась, што цябе ніякі мароз ні дыстаніць.* Малашкавічы Клім.

**ЗАКУТЫЦЬ,** *дзеясл.* 1. Захутаць, цёпла апрануць. *Маці закутыла дзіцё, што адзін нос тырчыць.* Парадзіна Мсцісл. 2. Зачыніць. *Нада ўжу хату закутыць, ато кымары ў хату ліцяць.* Арцёмаўка Міласл. *Закутый дзьверы, ато халодна.* Ельня Хоцім.

**ЗАЛА,** -ы, *ж.* Зал, вялікі пакой. *Сабранія будзець наверсе ў зале.* Пірагова Мсцісл.

**ЗАЛАПІЦЬ,** *дзеясл.* Залапіць. *Я залапіла сарочку, можыш надзіваць.* Забалоцце Раснян.

**ЗАЛАТНІК,** -а, *м.* Матка. *Залатнік зрушыла, ды ўсё хварэю.* Хвёдараўка Краснап.

**ЗАЛАТЫЙ,** *прым.* Залаты. *Апяражам мы цябе залатым паяском. Маленькая прыгожанькая пушачка, а ў ёй — залатоя калечка.* Пірагова Мсцісл.

ЗА́ЛВАНЬ, -і, *ж.* Месца, дзе ў рэчку ўпадае другая рэчка ці ручэй. *У нас залвань завуць яшчэ «вусьцень».* Касцюковічы.

ЗАЛЕ́ЖАЦЬ, *дзеясл.* Залежаць. *У нас ўсі парадкі залежаць ад бацькі: ён усім распырыджаіцца.* Добрае Мсцісл. *Жыцьцё залежыць ат таго, па якой дарожцы пойдзіш.* Сохана Мсцісл.

ЗАЛЕ́ЖНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Залежнасць. *У залежнысьці ат таго, колькі людзей зьбярэцца, і пыстанову прімім.* Малашкавічы Клім.

ЗАЛЕ́ЗЬЦЬ, *дзеясл.* Залезці. *Нада ж было мне залезьць у крапіву — усі ногі абстрыкыў.* Слаўнае Мсцісл. *Як залез каля рэчкі ў твань, дык чуць вылез.* Вародзькава Крыч.

ЗАЛЕ́ТАСЬ, *прысл.* Залетась. *Залетась год быў ураджайны.* Беразяк Краснап.

ЗАЛЕ́ТЫВАЦЬ, *дзеясл.* Залетаваць, застацца на лета. *Сын паехыў к дзядзьку свайму ў Ташкент, дый залетывыў там.* Палуж Краснап.

ЗАЛЕ́ТЫШНІЙ, *прым.* Залеташні. *Залетышній і летышній гады былі нічога, а сёліта ўжу плоха.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАЛІ́ЎКА, -і, *ж.* 1. Малако з канаплянага семя. *Бульбу варылі з заліўкыю.* Краснаполле. *Рысьцяры заліўкі. Мыкалі ладкі ў заліўку.* Брылёўка Краснап. 2. Рагатуха, дзяўчына, што голасна смяецца. *Цыц ты, заліўка, зы табой нічога ня чутна.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАЛІ́ЎНЫЙ, *прым.* Заліўны, што заліваецца вадою. *У нас сена многа, лучка заліўная, дык трыва расьцець у пояс.* Тур'я Чэрык.

ЗАЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Утапіцца. *Там нейкі хлапец заліўсь — шукаюць шастом.* Мсціслаў. *Вучынь купайся, пыпаў у вір і заліўся; на другей дзень ледзь дысталі.* Арцёмаўка Міласл. *Дзейка залілася, ні змаглі атхаіць.* Палуж Краснап. 2. Абліцца. *Як дам у храпу, дык кроўю зальлесься.* Палуж Краснап.

ЗАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Заліць. *Матка заліла вадою ў печы махнытку.* Гібалы Касцюк. *Залі ты тэя махныткі.* Касцюковічы.

ЗАЛО́Г, -у, *м.* Заклад. *Каб пазычыць жыта на хлеб, пакінуў тулуп у залог.* Сохана Мсцісл.

ЗАЛО́ЖАНЫЙ, *прым.* Заложаны, закладзены. *Ці заложана юшка ў коміні?* Машавая Бялынкав.

ЗАЛО́ЖЫШНІК, -а, *м.* Прыбітая да сцяны дошчачка з прарэзямі для лыжак. *Памый заложышнік, ато надта брудны і ложкі пыкласьць нядобра.* Затоны Раснян.

ЗАЛО́ЗА, -ы, *ж.* Залоза. *На шыі залозы пыраспухлі.* Сохана Мсцісл.

ЗАЛО́ЗКА, -і, *ж.* Памянш. ад залоза. *У дзіцёнка пад глоткый залозкі.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАЛО́ЎКА, -і, *ж.* [Залвіца], мужава сястра. *Залоўка мыя была вельмі добрыя.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Мы з залоўкай хадзілі ў грыбы.* Ганнаўка Клім.

ЗАЛУ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Залучыць, забраць, загнаць. *Залудзіў пару канёў у пуню.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАЛУПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Кінуцца бегчы вопрамеццю. *Ён як залупя дамоў, дык толькі яго і бачылі.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАМАРА́ЖАНЬНЕ, -я, *н.* Замарожанне. *Ясяў Язэп быў адчулены ад замаражаньня.* Старае Сяло Мсцісл.

ЗАМАРЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Змарыцца [стаміцца]. *Хухцінькі вы мае! Во замарылась: тры куліткі лёну намяла.* Куркаўшчына Мсцісл. *Замарыўся бягучы, аж язык высалапіў.* Рассохі Касцюк.

ЗАМЕ́НА, -ы, *ж.* Замена. *Ні патрэбна мне твыя замена, аддай маё.* Лешчынка Мсцісл.

ЗАМЕ́СА, -ы, *ж.* Замес, рошчына. *Хлеба толькі на дзень зысталося, трэба замесу ставіць.* Самацевічы Касцюк.

ЗАМЕ́СТ(а), *прысл.* Замест. *Замест гамонкі яна пачала сапці ў адказ.* Пірагова Мсцісл. *Заместа брушніц ныбраў тылыкнянык.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАМЕ́ШКА, -і, *ж.* Перашкода. *Усё хырашо, толькі адна замешка нам будзіць: ета піріправіцца чыряз старый мост.* Бяседавічы Хоцім.

ЗАМЕ́РЗНУЦЬ, *дзеясл.* Замерзнуць. *Хухый рукі, ато замёрзнуць.* Палуж Краснап. *Я дужа, дужа замёрзла ны падолі.* Слаўнае Мсцісл. *Ні дай бог якей ён мірзлявый, толькі вышыў на двор і ўжо замёрз.* Бяседавічы Хоцім.

ЗАМЕ́РШЫЙ, *прым.* Змерзлы. *Замёршыга пычалі атхаівыць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАМЕ́Т, -у, *м.* Агароджа з бярвення ці аполкаў, закладзеных у шулы, як у сцяне. *Паміж хатай і пуняй зрабілі замёт.* Машавая Бялынкав. *Як бег, так праз замёт — і на двор.* Бяседавічы Хоцім.

ЗАМЕ́ТКА, -і, *ж.* Кавалак палатна. *Маці на хрэсьбіны занісла замётку.* Вінаградаў Міласл.

ЗАМЕ́ТЫ, -аў, *мн. л.* 1. Бярвенні ці аполкі, што закладваюцца паміж шуламі. *Шулы пыставілі, січас будзім закідываць замёты.* Хвёдараўка Краснап. 2. Снегавыя заносы. *Такіх замётыў, як у сёлітнюю зіму, дык я ніколі ні бачыў.* Добрае Мсцісл.

ЗА́МІЦЬ, -і, *ж.* Замець, завея, мяцеліца. *Ні пупадзеш дарогі, сільныя заміць.* Палуж Краснап. *У полі тыкая заміць, што сьвету ні відаць; ні дай бог січас быць у дарозі — прупасьць можна.* Малюшын Краснап. *У такую заміць сугробуў ні навеіць, толькі дарогу зымяцець, ехыць будзіць цяжка.* Арцёмаўка Міласл. *Ны дваре тыкая заміць, што сьледу ня відна.* Слаўнае Мсцісл.

ЗАМЛЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Самлець. *Рукі мае чыста замлелі.* Малашкавічы Клім.

ЗАМНО́ГА, *прысл.* Зашмат. *Замнога ты зыпрашуіш — доўга тыргуваццa нада.* Краснаполле.

ЗАМО́ЖНА, *прысл.* Заможна, багата. *Наш Ян жывець заможна.* Кокатава Мсцісл.

ЗАМО́ЖНЫЙ, *прым.* Заможны, багаты. *Андрэй — самы заможны гаспыдар вёскі.* Быкавічы Мсцісл. *У нашай дзярэўне многа заможных, ёсьць адзін, што пяцёх коняй дзяржыць.* Пірагова Мсцісл.

ЗАМО́К, -мка, *м.* Замок. *Ат сырысьці замок зыржавеў.* Малашкавічы Клім. *Ат*

*вора і замком ні 'тбаронісься.* Пачаны Краснап.

ЗАМО́РЫК, -а, *м.* Заморак, заседжанае, пакінутае птушкай яйцо. *Дзесіць пісклят выйшла і тры заморкі зысталося.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАМО́ЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад замок. *Во файный замочык, і заклёпык ня відна.* Хвёдараўка Краснап.

ЗА́МУЖ, *прысл.* Замуж. *Няго ты ня пойдзіш зы мяне замуж?* Слаўнае Мсцісл. *Мар'я ні хацела замуж іці, сіламоцьцю аддалі.* Касцюковічы.

ЗАМУ́ЖНІЯ, *прым.* Замужняя. *Замужнія жанчыны носяць нарожнікі.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАМУ́Ж'Я, -я, *н.* Замужжа. *Замуж'я яе ні завідныя — большы плача, як скача.* Палуж Краснап.

ЗАМУЗДКА, -і, *ж.* [Цуглі]. *На кыня была надзета замуздка.* ЗапаньРаснян.

ЗАМУЗДА́ЦЬ, *дзеясл.* [Закілзаць, зацугляць]. *Ці замуздаў ты, Іван, кыня?* Палуж Краснап.

ЗАМУ́ЗДЫВЫНЬНЯ, -я, *н.* Кілзанне [зацугліванне]. *Замуздывыньня ні паможыць, ета такей конь, што ты яго ны ланцугу ня зьдзержыш.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАМУ́ЗДЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Закілзваць [зацуглiваць]. *Замуздывыць коній ні нада: яны ні пужлівыі, ні пубягуць.* Серчыцы Краснап.

ЗАМУРДУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Замучыцца, стаміцца. *Замурдуваўся конь ад ваднёў.* Канічы Касцюк.

ЗАМУ́РЗАНЫЙ, *прым.* Замурзаны, запэцканы. *Нейкі ў яго аблік няпрыгожый: худый, замурзаный.* Пірагова Мсцісл.

ЗАМУ́ТЫК, -тка, *м.* Заседжанае яйцо. *Ета ня сьвежыя яйцы, а замуткі.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАМУЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Замуціць. *Твой сын такей рахманы, што нікому і вады ні замуціць.* Лешчынка Мсцісл.

ЗАМУ́ЧЫЦЦА, *дзеясл.* Замучыцца, замарыцца. *Хужы німа ны лянівым кані ехыць, ета ж замучыцца можна, нэкуўшы ны яго ды біўшы.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАМУ́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Замучыць, замарыць, стаміць. *Дай адпачыць каню, ато замучыў ты яго етым возум.* Малашкавічы Клім.

ЗАМЫКА́ЦЬ, *дзеясл.* Замыкаць. *Кожны раз вароты замыкаець.* Багацькаўка Мсцісл.

ЗАМЯРЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Замярацца, намервацца, мець намер. *Загадзя нельга замяряцца: можа к заўтрышніму памрём.* Дубеец Краснап.

ЗАНЕ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Занесці. *Нада трубкі занесьць у кубла.* Новыя Капачы Мсцісл. *Занясі вядро к бляхару, дык ён і пачыне.* Касцюковічы. *Вялікае разводзьдзе сёлета — усю лучку пяском занясе.* Зарэчча Мсцісл.

ЗАНІДЗЬБЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Заняпасці, захварэць. *Занідзьбеў пырасёнычык, найряд ці будзя жыў.* Хвёдараўка Краснап.

ЗА́НІЗКІ, -аў і -зак, *мн. л.* Пацеркі [каралі]. *Якея прыгожыя занізкі.* Хвёдараўка Краснап. *Шнурок пырваўся, і занізкі, рассыпылісь.* Іванаўка Хоцім.

ЗА́НІТЫЙ, *прым.* Заняты, не вольны. *Ні нада яму мішаць, ён заніт дзелум. Садзісь, кумок, там на слоніц, ато лаўкі ўсі ўжо заніты.* Бяседавічы Хоцім.

ЗАНО́СЬЛІВЫЙ, *прым.* Занослівы, ганарысты. *Ён дужа заносьлівый і гынарлівый хлопіц, хуць і няма яму чым зыдывацца.* Слаўнае Мсцісл.

ЗАНО́СЬЛІВЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Занослівасць, гонар. *К чаму ета твыя заносьлівысьць, ты ж такі самы, як і мы, а нос угару дзярэш, што ні дыстаць.* Слаўнае Мсцісл.

ЗАНУ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Засумаваць. *Ён нешта занудзіў.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАНУТУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Занатаваць, заўважыць. *Я толькі сяньня занутувала, што ты абрэзала сабе косы.* Куркаўшчына Мсцісл.

ЗАНЦІРІСУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Зацікавіцца. *Чым ты так занцірісуваўсь, што ні можыш атыйці?* Краснаполле.

ЗА́НЫВА, *прысл.* Занава. *Дом пан адзьдзелыў заныва, ды ні прышлося ў ём жыць.* Тур'я Краснап.

ЗА́НЫГЦІЦА, -ы, *ж.* Болька на пальцы ад задранай ад пазногця скуры з мясам. *У мяне ны пальцы заныгціца, ды вельмі ж балюча.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАНЯ́ТЫЙ, *прым.* Заняты. *Ні магу ўзяць болі нічога — абедзьве рукі заняты.* Старае Сяло Мсцісл. *Усі лаўкі заняты, што і сесьць нейдзе.* Белы Камень Бялынкав.

ЗАПАВЕ́ТРЫЦЦА, *дзеясл.* Запаветрыцца, прапасці. *Запаветрыйся ты з сваею работыю.* Красоўка Крыч.

ЗАПАВЕ́ТРЫЦЬ, *дзеясл.* Запаветраць, знайсці хворасці з паветра, заразіцца. *Няхай цябе запаветрыіць, які ты стаў нядобры, нікога ня слухыіш!* Красоўка Крыч.

ЗАПАЗЫ́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Запазычыць, пераняць. *Запазычыў у горадзі розных выкрунтасаў.* Сохана Мсцісл.

ЗАПА́ЛКА, -і, *ж.* Запалка, сярнічка. *Пакладзі запалкі ў пячурку, ніхай высахнуць, ато сырэя ні запальваюцца.* Смолькаўская Буда Бялынкав.

ЗАПАЛА́Ч, -ы, *ж.* Каляровыя ніткі для вышывання, заблаць. *Дзяўчына вышывала запалаччу набожнік.* Дзяніскавічы Навазыбк.

ЗАПАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Запаліць. *Янка запаліў цяпло і стаў печ ракаў.* Куляшоўка Клім.

ЗАПА́ЛЬВАЦЦА, *дзеясл.* Запальвацца. *Купіў жа ты нейкіх запалак, што ніяк ні запальваюцца.* Смольская Буда Бялынкав.

ЗАПА́ЛЬВАЦЬ, *дзеясл.* Запальваць. *Запальвай, жонка, цяпло, цёмна ўжо ў хаце.* Малашкавічы Клім.

ЗАПА́ЛЬЧЫВЫЙ, *прым.* Запальчывы. *Ён дужа запальчывый: як расьсердзіцца, можыць чылавека забіць.* Гарбавічы Касцюк.

ЗА́ПАН -а, *м.* Фартух. *Дзе ж ета мой запан, як жа я пайду біз запына.* Іванаўка Хоцім.

ЗАПА́РЫЦЬ, *дзеясл.* Запарыць. *Запарыла ў шайцы мякіны і вынісла сьвіньням.* Сапрынавічы Мсцісл.

ЗА́ПЕК, -а, *м.* Запечак, месца для спання за печкаю [каля печкі]. *Дзед заўсёды сьпіць на запеку.* Машавая Бялынкав.

ЗАПЕ́РА, -ы, *ж.* Дыхальная плёнка, дыяфрагма. *Пызасохлі заперы ў кабанчыка.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАПЕ́РЦЬ, *дзеясл.* Заперці, зачыніць. *Нада заперць вароты.* Крычаў. *Запрі дзьверы на клямку.* Гарбавічы Касцюк.

ЗАПЕ́ТАВАЦЬ, *дзеясл.* Забіць, увагнаць глыбока ў зямлю. *Во запетаваў я кол у зямлю, паспрабуй, вырві!* Пірагова Мсцісл.

ЗАПЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Заспяваць. *Прішлось запець з горя песьню і іціць двору.* Бяседавічы Хоцім. *Певень запеў у падпечку.* Пірагова Мсцісл.

ЗАПЕ́ЧАК, -чка, *м.* Запечак. *Дзед злез з печы і сеў на запечак. Матка сядзіць на запечку.* Смолькаўская Буда Бялынкав. *А ты сядзіш на куце, а я ны запечку, ‖ А ты ясі піражкі, а я пірапечку.* Прыпеўка.

ЗАПЕ́ЧКІ, -аў, *мн. л.* [Апечак], драўляны зруб, на якім кладзецца печ. *Для печы зроблены моцныя запечкі.* Машавая Бялынкав.

ЗАПЕ́ЧЧА, -а, *н.* Запечча, месца за печкаю. *Пыкладзі растопу ў запечча, ніхай высыхніць.* Хвёдараўка Краснап. *Запечча пустоя.* Хоцімск.

ЗАПЕ́ЧЫК, -чка, *м.* Запечак. *Пыкладзі лучыну ў запечык.* Краснаполле.

ЗА́ПІК, -а, *м.* Запек, забочына каля ўвахода ў печ. *У запіку вяхотка ляжыць.* Краснаполле.

ЗАПІКА́НКА, -і, *ж.* Моцны тытунь-самасей. *Засеіў сабе запіканкі, калі зародзіць, то будзець што курыць.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАПІКНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Заткнуць. *Гырлыпану етыму ніяк глоткі ні запікнеш.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАПІРА́ЦЬ, *дзеясл.* Зачыняць. *Запіраць вароты зрабілі засыўку.* Машавая Бялынкав.

ЗАПІСА́ЦЬ, *дзеясл.* Запісаць. *Запішы мяне, я таксама хачу сказаць слова.* Пірагова Мсцісл.

ЗАПІ́СЫВАЦЦА, *дзеясл.* Запісвацца. *Мыладыя паехылі запісывацца ў сельсавет.* Сохана Мсцісл.

ЗАПІ́СЫЧКА, -і, *ж.* Запісачка. *Настаўніца напісала маёй матцы запісычку, каб матка прыйшла да яе.* Сохана Мсцісл.

ЗАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Запіць. *Елі мылако, тады запілі пыстыялкый.* Восаў Краснап.

ЗАПЛА́КАЦЬ, *дзеясл.* Заплакаць. *Як стаў яго прабіраць, дык ён аж заплакаў.* Ушакі Чэрык. *Ня руш дзіцёнка, ато заплачыць.* Пірагова Мсцісл.

ЗАПЛАЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Заплаціць. *Прадаў я кыня, вярнуў грошы, што сам заплаціў і ішчэ прыбытку рублёў пяць.* Ушакі Чэрык. *Заплаці мне за работу, тады пайду ад цябе.* Пірагова Мсцісл.

ЗАПЛЕ́СЬНІВЫНЫЙ, *прым.* Забраснявелы, загнілы. *У шахві сыр увесь заплесьнівыный стаў ат сырысьці відаць.* Слаўнае Мсцісл.

ЗАПЛЕ́СЬНІЛЫЙ, *прым.* Забраснелы. *Квас у дзежцы ўжу старый, заплесьнілый, нада новый зыварівыць.* Высокі Бор Краснап.

ЗАПЛІКНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Зашпіліцца. *Заплікніся ты, ато і ходзіць так расхістаны.* Кокатава Мсцісл.

ЗАПЛІКНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Зашпіліць. *Заплікні мне сарочку.* Кокатава Мсцісл.

ЗАПЛІТА́ЦЬ, *дзеясл.* Заплятаць. *Наста заплітаіць касу.* Гібалы Касцюк.

ЗА́ПЛІЧКА, -і, *ж.* Зашпілька. *Заплікні сьвітку ны заплічкі.* Палуж Краснап.

ЗАПЛУ́ТЫНЫЙ, *прым.* Заблытаны. *Маток нітык дужа заплутыный ні размытаіш, нада ж было так заплутыць.* Горкі Краснап.

ЗАПЛЮ́ШЧАНЫЙ, *прым.* Заплюшчаны. *Ён няпрыгожый, такій, біндавокі — адно вока заплюшчана.* Пірагова Мсцісл.

ЗАПЛЮ́ШЧЫЦЬ, *дзеясл.* Заплюшчыць. *Калі стрыляіш, дык нада заплюшчыць левыя вока, а правым целіць.* Бяседавічы Хоцім. *Сьпі, дзетка, сьпі—заплюшч вочкі.* Івоны Мсцісл.

ЗАПЛЯНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Заглушыць, запаланіць. *Пустазельля запляніла гарод.* Васілёўка Хоцім.

ЗАПЛЯСЬЦІ́, *дзеясл.* Заплесці. *Запляці ў касу стужку.* Бель Мсцісл.

ЗАПО́ІНЫ, -аў, *мн. л.* Запоіны, вечар у дзяўчыны, калі яе сватаюць. *Аксюту высватылі: сяньні сваты былі, і запоіны згулялі, чыріз нядзелю будуць заручыны, а там і свадзьба скора.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАПО́МНІЦЬ, *дзеясл.* Запомніць, узяць у памяць. *І цямкі ты хлопец, паслухый раз і ўсё запомній.* Лешчынка Мсцісл.

ЗАПО́ЎНЕНЫЙ, *прым.* Запоўнены. *Каўдобіны запоўнены вадою.* Касцюковічы.

ЗАПО́ЎНІЦЬ, *дзеясл.* Запоўніць. *Як пынайшло людзей, дык увесь сельсавет запоўнілі.* Пячкоўка Мсцісл.

ЗАПРАГА́ЦЬ, *дзеясл.* Запрагаць. *Запрагай каня, паедзем у лес.* Затоны Раснян. *Запражы каня ў калёсы.* Варо́дзькава Крыч.

ЗАПРА́ГЧЫ [запрэ́жч], *дзеясл.* Запрэгчы. *Запражом біндзюг і паедзім за сеным.* Новыя Капачы Мсцісл. *Якуб запрог каня ў калёсы, недзе, відаць, паедзе.* Чыгрынаўка Раснян.

ЗАПРАДА́ЦЦА, *дзеясл.* Запрадацца. *Ён жа ім усіроўна як запрадаўсь, што ні скажуць рабіць — усё робіць, хоць бы і ні хацеў.* Ушакі Чэрык.

ЗАПРАПАШЧО́НЫЙ, *прым.* Запрапалы, прапалы чалавек. *Нічога ўжо з цібе, хлопіц, ні будзіць, запрапашчоны ты ўсіроўна так ці іначай.* Ушакі Чэрык.

ЗАПРАША́ЦЬ, *дзеясл.* Запрашаць. *Колькі раз цібе запрашала, каб ты прышоў, а ты ні хочаш.* Ушакі Чэрык.

ЗАПРЕ́ЖЫНЫЙ, *прым.* Запрэжаны. *Дакуль вы будзіця там пірігуварівыцца, пыскарей, ато конь даўно запрежын, нада двору ехыць?* Бяседавічы Хоцім.

ЗАПУСТУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Запуставаць, перастаць апрацоўвацца (пра зямлю). *Зімля наша запустувала.* Палуж Краснап.

ЗАПУСЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Запусціць, перастаць даглядаць [і перастаць даіць]. *Запусьціў зямлю так, што нічога ня родзіць. Дос ужо галіцца, нада запусьціць сабе быраду.* Шумячы.

ЗАПУШЧАНЫЙ, *прым.* Запушчаны. *У цябе сад дужа запушчаный, нада яго падмыладзіць. Гэты аборык запушчаны.* Затоны Расням.

ЗАПХНУЦЬ, *дзеясл.* Запхнуць. *Запхнуў за пазуху кавалак хлеба і пайшоў у горад на суд.* Сохана Мсцісл.

ЗАПЫНКА, -і, *ж.* Шпонка. *Зысьцягнуў кайнер на запынку.* Сохана Мсцісл.

ЗАПЫНТАЦЬ, *дзеясл.* Забыцца, адбіць памяць. *Запынтала табе — ня памітаеш.* Тур'я Чэрык.

ЗАПЫХЫЦЦА, *дзеясл.* Задыхацца. *Аж запыхыўся, так бег.* Палуж Краснап. *Мы з ім хоць і запыхылісь, зато шпарка прабеглі тры вярсты.* Добрае Мсцісл.

ЗАПЫШКА, -і, *ж.* Задышка. *Аж запышку ныгнаў сабе, бегшы.* Палуж Краснап.

ЗАПЭЦКАЦЦА, *дзеясл.* Запэцкацца. *Ні запэцкайся лі сьцяны ў мел.* Пірагова Мсцісл.

ЗАПЭЦКАЦЬ, *дзеясл.* Запэцкаць. *Усю чыста сьвітку запэцкыў у гразь.* Сохана Мсцісл.

ЗАРАБАК, -бка, *м.* Заробак. *Сеньнешні зарабак выпадковы.* Касцюковічы.

ЗАРАБАТАК, -тку, *м.* Заработак. *У етым дзеле няма пэўнага зарабатку.* Гібалы Касцюк. *Нужда мяне гоніць на зарабаткі, а так ці пашоў бы я!* Пірагова Мсцісл.

ЗАРАБІЦЬ, *дзеясл.* Зарабіць. *Мне сёньні выпадак дапамог зарабіць пяць рублёў.* Касцюковічы.

ЗАРАБЛЯЦЬ, *дзеясл.* Зарабляць. *Максім на чыгунцы зарабляе добрыя грошы.* Малашкавічы Клім.

ЗАРАДЖАЦЦА, *дзеясл.* Зараджацца, нараджацца. *А елі мы белы сыр, белы сыр.* ‖ *А зародзіцца первый сын, первый сын.* З нар. песні.

ЗАРАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Зарадзіць, урадзіць. *Харошыя жыта ў яго зарадзіла, ён летась параспахаў ляды, дык яно аж у пукі зьвілось.* Пірагова Мсцісл. *Сопкая зарадзіла сёліта ў нас бульба.* Крычаў.

ЗАРАЗ, *прысл.* Зараз, адразу, тут жа. *Зараз пызнаў, што ён схлусіў, бо ён пачырванеў і зрабіўся смешалым.* Старае Сяло Мсцісл. *Калі трыпутнік прыкласьці к нарыву або скуле, зараз жа прарвець.* Пірагова Мсцісл.

ЗАРАЗ, *прысл.* Разам [заадно]. *Усі зараз ні гывырыце.* Мсціслаў.

ЗАРАЦЦА, *дзеясл.* Зарацца. *Атвал зараўся, нада новы купляць.* Бязводзічы Мсцісл.

ЗАРВАЦЬ, *дзеясл.* Захапіць гвалтам. *Што зарве, то й цягне.* Палуж Краснап.

ЗАРДЗЕЦЬ, *дзеясл.* Пачырванець. *Дзяўчына зардзела, знаць, сорамна трохі.* Вінаградаў Міласл.

ЗАРЕЗЫНЫЙ, *прым.* Зарэзаны. *Упорка плоха зарезына.* Ташна Клім.

ЗАРЕЗЫЦЬ, *дзеясл.* Зарэзаць. *Зарезыў цялёнка-апойка.* Палуж Краснап. *Рязьнік зарезыў карову.* Слаўнае Мсцісл.

ЗАРОБІЦЬ, *дзеясл.* Зарабіць. *Трэба на боты грошы заробіць.* Сохана Мсцісл. *Ні гоцый ны лайцы, ато заробіш па шыі.* Палуж Краснап. *Тут ужу пажытык такей — трі рублі ўсяго заробіў.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАРОСЬЦЬ, *дзеясл.* Зарасці. *Увесь двор муравый зарос.* Хвёдараўка Краснап. *Гэта ж нада так гароду даць заросьць; нічога ні відаць з-пад тухлянкі.* Дубеец Касцюк.

ЗАРУБІЦЬ, *дзеясл.* Зарубіць, абшыць край рубцом. *Дарька, сядзь ды зарубі хустку, штоб ні махрілась.* Маластоўка Краснап.

ЗАРУБЛІНЫЙ, *прым.* Зарублены, падрублены. *У цібе кохта нізарубліныя, а ты надзіваіш.* Палуж Краснап.

ЗАРУБЫНЫЙ, *прым.* Зацяты. *Тут была ёлычка зарубыныя: я зарублівыў, штоб пызнаць места.* Высокі Бор Краснап.

ЗАРУЖЖА, -ы, *ж. бат.* Люцік-паўзун. *Заружжа расьцець у лузе, цьвет яе рыжый.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАРУЧОНЫЙ, *прым.* Заручаны. *К ёй німа чаго ехаць у сваты, спазьніўсь ты: яна ўжо заручоная за нашыга Хвёдара.* Ушакі Чэрык.

ЗАРУЧЫНЫ, -аў, *мн. л.* Заручыны. *Скора ў іх свадзьба будзіць, ужу заручыны былі, а ў сваты дык ужу даўно пріхадзілі.* Арцёмаўка Міласл. *У Дуні былі заручыны.* Слабада Расням.

ЗАРУЧЫЦЬ, *дзеясл.* Заручыць, справіць заручыны. *А ў нас сяньня ды заручынкі;* ‖ *Заручылі дзеўку проця пынядзелку.* З нар. песні.

ЗАРЫБЛЯЦЬ, *дзеясл.* Зарабляць. *Прыходзіцца і на хлеб зарыбляць у чужых людзей.* Сохана Мсцісл.

ЗАРЫЗ, *прысл.* Зараз. *Пугуляй троху, я зарыз зьдзелыю ўсё.* Нова-Ельня Краснап. *Пыдаждж ы, я зарыз прыду.* Кокатава Мсцісл.

ЗАРЫКАЦЬ, *дзеясл.* Зарыкаць. *Карова зарыкала ў пуні. Бык зарыкаў.* Палуж Краснап.

ЗАРЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Зараснік. *Ны палосцы Шахніхі ўжо зарысьць пышла.* Палуж Краснап.

ЗАРЫЦЦА, *дзеясл.* Заваліцца. *Чалесьнік зарыўся, няможна печ тапіць.* Дрыбін.

ЗАРЫШТЫВАЦЬ, *дзеясл.* Арыштаваць. *Якыва сяньні зарыштывалі і павязьлі ў горыд.* Васілёўка Хоцім.

ЗАРЭЗ, -а, *м.* Зарэз, забіцце [рэзанне, убой]. *Купленых кароў пывялі на зарез у бойню.* Сохана Мсцісл.

ЗАРЭЗЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Зарэзаць. *Курыцу зарэзылі, трэба скусьць пер'я.* Парадзіна Мсцісл. 2. Замучыць. *Работа зарэзыла, некылі й прадыхнуць.* Палуж Краснап.

ЗАРЯ, -і, *ж.* Зара, рань, світанне. *Ні літай ты, ластыўка, рана пы зарі,* ‖ *Ні сьпівай ты, ластыўка, ранныя расы!* З нар. песні.

ЗАСВО́ЙВАЦЬ, *дзеясл.* Прысвойваць. *Пазычыў я Мікіту сякеру, а ён яе засвоіў.* Палуж Краснап.

ЗАСВО́ІЦЬ, *дзеясл.* Прысвоіць. *Ні пазычай ты яму нічога, ато засвоіць і ні аддасьць.* Малашкавічы Клім.

ЗАСЕ́ДЖЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Заседжвацца, доўга быць, сядзець дзе. *Ні заседжывыйсь там доўга, хучэй прыходзь, бо абедаць пара.* Палуж Краснап.

ЗАСЕ́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Засядзецца, заставацца доўга. *Матруна — сьлічныя дзеўка, у дзеўкых ні заседзіцца.* Палуж Краснап.

ЗАСЕ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Засядзець. *Курыца зьнесла некылькі яец ды заседзіла, а мы й ні ўбачылі.* Малашкавічы Клім.

ЗАСЕ́ІНЫЙ, *прым.* Засеяны. *На ўвесь сьцяж, як відаць, была засеіна ярына.* Ушакі Чэрык.

ЗАСЕ́ІЦЬ, *дзеясл.* Засеяць. *Я буду мішаць, а ты зьвезьдзі прівязі жыта, і зразу ж сьвежую зямлю засеім.* Бяседавічы Хоцім. *Засеіў сабе запіканкі* (гатунак табакі). Хвёдараўка Краснап.

ЗАСЕ́К, -а, *м.* Засек. *Жыта насыпалі цэлы засек.* Машавая Бялынкав. *Поўны засекі хлеба.* Хвёдараўка Краснап. *Засекі поўныя збожжа.* Пухнава Раснян.

ЗАСЕ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Сесці [рассесціся]. *Паедзім, дзеткі, к бабцы ў госьці. ‖ Зысядзім, зысядзім! ‖ Мой муж ны куце,‖ Я, мылыда, лі яго, ‖ Дзеткі ў парозі.* З нар. песні. *Брудзь засела ны быradзе.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАСЕ́ЦЬЦЯ, -я, *н.* Задняя частка гумна. *Гэта ж у мяне цячэ засецьця.* Тур'я Чэрык. *Сёліта мы насыпылі мякіны і аторі целыя засецьця.* Бяседавічы Хоцім. *Засецьця поўна накладзена сенам.* Пухнава Раснян. *Салома зложана ў засецьця.* Машавая Бялынкав.

ЗАСЕ́Ч, *дзеясл.* Засекчы, зарубіць. *Мне трэба засеч тры гавейніка.* Ташна Клім.

ЗАСЕ́ЧКА, -і, *ж.* Зарубка, зацін. *Зьдзелый ны бярёзі засечку, а тады пыдстаў кукшын, то бярёзывік пыцячець.* Брылёўка Краснап.

ЗАСЕ́ЯНЫЙ, *прым.* Засеяны. *Кватэрка засеяна льном.* Малюшын Краснап. *Ляда даўно засеяна.* Баброва Раснян.

ЗАСЕ́ЯЦЬ, *дзеясл.* Засеяць. *Гаспадар рупіцца, каб засеяць насеньне.* Пацкава Мсцісл.

ЗА́СІК, -а, *м.* 1. Засек. *В етым гаду мы насыпылі жыта цэлый засік.* Бяседавічы Хоцім. *У клеці сёліта ў мяне поўны засік хлеба.* Слаўнае Мсцісл. *Выміць засік, будзем сыпаць авёс.* Маластоўка Краснап. 2. Засечка, зарубка на дрэве. *Засікі ны бярёзых пынадзелыны, знаць, рубіць будуць.* Высокі Бор Краснап.

ЗАСІКА́ЦЬ, *дзеясл.* Засякаць, рабіць засечкі, зацінаць. *Мушчыны пашлі ў лес, будуць зь лясьніком засікаць сухастой.* Б. Хутары Краснап. *Ні нада бярёзык засікаць: зыгнівацца пачнуць.* Брылёўка Краснап.

ЗАСІЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Павесіцца. *Сягоньні чылавек у нас засіліўся.* Хвёдараўка Краснап. *Хацеў засіліцца, ды людзі ўбачылі, ні далі пятлі надзець.* Палуж Краснап.

ЗАСІЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Зачэрпнуць. *Ідзіка засілі вядро вады.* Дубеец Касцюк. *Засілі вады поўны карэц і падай мне.* Буда Краснап. *Засілі вядро вады.* Іванаўка Хоцім.

ЗАСКА́БІЦЬ, *дзеясл.* Заскабіць, загнаць стрэмку. *Дзяўчына заскабіла нагу.* Малюшын Краснап.

ЗАСКАРАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Заскародзіць, забаранаваць. *Заскарадзіў усё сваё поля.* Малашкавічы Клім.

ЗАСКАЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Застаць. *Прыбег у волысьць і ткі заскачыў камісара.* Палуж Краснап. *Паедзім скарэй, можа й заскочым у ўрэмя.* Палуж Краснап.

ЗАСКО́К, -а, *м.* Выскачка. *Ня будзь ты сыбаччым заскокым.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАСЛА́НЫЙ, *прым.* Заслань. *Краваць заслана пасьцілкаю.* Крычаў.

ЗАСЛА́ЦЬ, *дзеясл.* Заслаць. *Мар'я на калёсы заслала гуньку.* Малюшын Краснап.

ЗАСЛО́НКА, -і, *ж.* Засланка. *Атчыні заслонку ды пыглядзі ў печ.* Палуж Краснап. *Макрыда, вазьмі заслонку і закрый печ.* Новыя Капачы Мсцісл. *Печка зачынена заслонкай.* Стары Дзедзін Міласл.

ЗАСЛУЖЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Заслужыць. *Таму што быў лагоднікым разам для ўсіх, ува ўсіх ласку заслужыў.* Сохана Мсцісл.

ЗАСЛЫНЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Засланяць. *Не заслыняй вакно.* Іванаўка Хоцім.

ЗАСНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Заснуць. *Дайця вы мне заснуць хоць троху.* Пірагова Мсцісл. *Ня будзіця вы яго, ён толькі што заснуў.* Малашкавічы Клім.

ЗАСО́ЎКА, -і, *ж.* Засаўка. *Каваль зрабіў засоўку ды дзьвярэй школы.* Стары Дзедзін Міласл.

ЗАСПА́ЦЦА, *дзеясл.* Заспацца. *Дзіцёнык — мой будзёнік, ні дасць заспацца.* Тур'я Краснап.

ЗАСТА́ВІЦЬ, *дзеясл.* Заставіць. *Ці заставіў ты, Мікола, жак?* Новыя Капачы Мсцісл. *Пруднік заставіў рына.* Крычаў.

ЗАСТАГУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Зашпіліцца. *Прышый гаплюк, ато нечым застагувацца.* Бялішчына Мсцісл.

ЗАСТАРО́НАК, -нка, *м.* Прыстаронак, месца ў гумне паабапал току, дзе складваецца збожжа. *Жыта зложана на застаронак.* Машавая Бялынкав. *Саломы на застаронках у нас асталося мала.* Новыя Капачы Мсцісл.

ЗА́СТАЎКА, -і, *ж.* 1. Жэрдка, якая ставіцца ў гумне ад току, каб не валілася салома. *Пыдбяры моцныя застаўкі, каб ні зламілісь, ато салома на ток зьедзець.* Пухнава Раснян. 2. Калодка, што падтрымлівае галоўку полаза пры гнуцці. *Закладзі там застаўку.* Ташна Клім.

ЗАСТА́ЦЦА, *дзеясл.* Застацца. *Калі б не падуза, застаўся б конь без галавы.* Ташна Клім. *Узяў із злосьці паскіпаў-паскіпаў тый стул, толькі скёпкі засталіся.* Юшкі Мсцісл. *У печкі махнытка засталась.* Шумячы.

ЗАСТА́ЦЬ, *дзеясл.* Застаць. *Ну хай бы ты ўчора прышоў — якраз бы ўсіх застаў ішчэ.* Ушакі Чэрык.

ЗАСТО́ЛЬЛЯ, -я, *н.* Застолле, месца за сталом. *Бацька сядзеў ны застольлі.* Гусарка Клім.

ЗАСТРА́ШЫЦЬ, *дзеясл.* Застрашыць, запалохаць. *Сьведкі ня хочуць нічога пыказвыць таму, што іх застрашылі.* Сохана Мсцісл.

ЗАСТРЭ́ШНІК, -а, *м.* Застрэшнік, маленькі снапок саломы; такія снапкі кладуць першым радам, калі пачынаюць крыць страху. *Бяры салому і вяжы застрэшнікі.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАСТУДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Застудзіцца. *Ня дзіва, калі чылавек застудзіўся: еткій мароз ды зь ветрым быў.* Палуж Краснап.

ЗАСТУП, -а, *м.* Рыдлёўка, драўляная з жалезным лязом. *Вазьмі з сабою заступ, той пень нада выкыпаць.* Канахоўка Клім. *Заступам кыпалі кынаву.* Крычаў. *Бягі пазыч заступ у Пініпа, пайдзем капаць бульбу.* Стары Дзедзін Міласл.

ЗАСТУ́ПНІК, -а, *м.* 1. Заступнік, абаронца. *Падумаеш, заступнік якей знайшоўсь!* Пірагова Мсцісл. 2. Намеснік. *Іван цяпер заступнік мой: зыступіў мае места старшынёю сельсавету.* Пірагова Мсцісл.

ЗАСТЫ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Астыць, зрабіцца халодным. *Крупнік ужо застыў, пакуль вы прышлі.* Парфенава Калініншчына. *Дзе ты прападаў? Бульба застыла ўжо.* Парадзіна Мсцісл. 2. Застудзіцца. *Ні разьдзівайсь ны марозі, ўпацеўшы, ато застыць можна.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАСУПО́НІЦЬ, *дзеясл.* Засупоніць, зацягнуць і завязаць супонь у хамуце. *Супоня разыйшлась, нада засупоніць.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАСУЎКА, -і, *ж.* Засаўка, запор у варотах. *Зачыні вароты ны засуўку.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАСЫДКА, -і, *ж.* [Засад], агароджанае месца для кабана, калі яго кормяць на сала. *Кыбына пысадзілі ў засыдку.* Палуж Краснап.

ЗАСЫ́ПАНЫЙ, *прым.* Засыпаны. *Кастрою лі дзьвярэй засыпана, што нельга ў лазьню прайці.* Маркаўка Хоцім.

ЗАСЫ́ПАЦЬ, *дзеясл.* Засыпаць. *Засып пяском вогнішча, бо можыць вецір пыжар раздуць.* Канахоўка Клім.

ЗАСЫРО́МІЦЦА, *дзеясл.* Засароміцца. *Засыромілась дзяўчына, як жар стала чырвона.* Ушакі Чэрык.

ЗА́СЫЎКА, -і, *ж.* Засаўка, палка, якую прасоўваюць у вушкі кубла, каб замкнуць. *Зачыні кубел ды засыўку прасунь.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАСЬВЕ́ДЧЫЦЬ, *дзеясл.* Засведчыць, пацвердзіць. *Пызавем пынятых, ніхай засьведчуць шкоду, тады я табе аддам коні. Хацеў я засьведчыць яго словы на судзе, ды думаю, ны якоя ліха мне лішніга ліхадзея нажывыць!* Бяседавічы Хоцім.

ЗАСЬВЯЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Запаліцца. *Толькі засьвяцілысь цяпло.* Хоцімск.

ЗАСЬВЯЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Запаліць (агонь). *Цёмна ўжо ў хаце — засьвяці цяпло.* Васілёўка Хоцім. 2. Пачаць свяціць. *Ня едзь зь вечыру, пад раньня вятох засьвеціць.* Слаўнае Мсцісл. 3. Выцяць. *Як рызмахнуўсь нытмашна, дык як засьвеціць яму ў морду, дык аж кроўю той абліўсь.* Пірагова Мсцісл.

ЗАСЬЛЕ́ПА, -ы, *ж.* Засляпенне. *Засьлепа ны цябе нызпала, што ні бачыш, куды ступіць?* Брылёўка Краснап.

ЗАСЬМЯЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Засмяяцца. *Удзержу ёй німа, як засьмяецца, дык глядзі, што лопніць ат сьмеху.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАСЬЦЕ́НАК, -нка, *м.* Засценак, кавалак зямлі за «сценкаю», дарожкаю, граніцаю. *Наша жыта ны засьценку пычало ўрунівыцца.* Канічы Касцюк.

ЗАСЬЦЕРАЖО́НЫЙ, *прым.* Абаронены, захаваны. *Добра, што ты быў засьцеражоны сьцяной, а так ні быць бы табе жывому.* Ушакі Чэрык.

ЗА́СЬЦІЖКА, -і, *ж.* Засцежка [зашпілька]. *Засьціжка атырвалысь у сьвітцы.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАСЬЦІЛАЦЬ, *дзеясл.* Засцілаць. *Ні плач, дзеткі, мы засьцелім толькі пасьцель, ды спаць ляжым.* Багацькаўка Мсцісл. *Вазьмі, Лісавета, скацерку ды засьцялі стол.* Новыя Капачы Мсцісл. *Мы засьцелім ды белую ложку.* З нар. песні.

ЗАСЬЦІНІЦЬ, *дзеясл.* Засціць, засланяць сабою свет. *Адыйдзі ад вакна, ні засьціні!* Арцёмаўка Міласл.

ЗАСЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Засціць, засланяць сабою свет. *Атыйдзі ат лямпы, ато засьціш, і нічога зы табой ня відна.* Слаўнае Мсцісл. *Ні засьці,— адыйдзі ад вакна.* Арцёмаўка Міласл. *Зрэжце-ка вы, хлопцы, тую асіну, што ны лагу, ато яна толькі засьціць.* Пірагова Мсцісл.

ЗАСЬЦЮДЗЯНЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Стаць халодным, астыць. *Калі ізноў падыйшлі пыглядзець хворыга, дык убачылі, што ён ужо памёр, і цела яго засьцюдзянела.* Сохана Мсцісл.

ЗАСЬЦЯГНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Зашпіліць. *Засьцягні ворыт, ато прастудзісься.* Гібалы Касцюк. *Засьцягні ліфчык.* Крычаў.

ЗАТАІЦЬ, *дзеясл.* Утаіць, не сказаць пра што-небудзь, што ведаеш ці маеш. *Найшлі грошы, ды затаілі.* Б. Хутары Краснап.

ЗАТАПІЦЦА, *дзеясл.* Утапіцца. *Сяньні затапіўся хлопчык ў паныўкі.* Бялішчына Мсцісл. *Ня лезь у вір, ато затопісься.* Пячонкі Раснян.

ЗАТАЎКА, -і, *ж.* Затаўка, кавалак сала, што кладуць у гаршчок. *Матулька ўкінула ў крупеню затаўкі.* Вінаградаў Міласл. *Сёньня ў варыве мала затаўкі.* Роськаў Калініншчына. *Абед быў з затаўкай.* Беразяк Краснап.

ЗА́ТКАЛА, -а, *ж.* Заткала, корак. *Із пляшкі выскачыла заткала.* Канава Хоцім. *Заткала выскачыла, і палілася выда.* Рэкта Калініншчына.

ЗАТКА́ЦЬ, *дзеясл.* Затыкаць. *Як узьнялі лаянку, клітбу — хуць ты вушы заткай!* Пірагова Мсцісл.

ЗАТКНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Заткнуць. *Ныбярі ў біклагу вады ды заткні шпунтым, у даро-*

*зі прігадзіцца. Заткні ў вось загвыздку, ато кылясо зваліцца.* Слаўнае Мсцісл.

ЗАТКЫЛА -а, *н.* Заткала, корак. *Ня будзь ты заткылым, і так тут цёмна.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАТЛУМЛЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Затлуменне, зацямненне розуму. *Затлумлення находзіць ат етыга іх кріку-голысу.* Высокі Бор Краснап.

ЗАТЛУ́МЛІНЫЙ, *прым.* Затлумлены. *Гылыва ў мяне затлумліныя — нічога ні сыбріжаю.* Брылёўка Краснап.

ЗАТО́КА, -і, *ж.* Затока. *У затоцы ны раке Проні я бачыў шмат вутык.* Вярбоўка Раснян.

ЗАТО́НЬ, -і, *ж.* Затон, затока. *У етый затоні абізацілна вуткі будуць.* Бяседавічы Хоцім.

ЗАТО́ПА, -ы, *ж.* Затопа, паводка, гразь. *У вясну дужа быльшая затопа.* Палуж Краснап.

ЗАТО́РНУЦЬ, *дзеясл.* Заткнуць. *Заторні-ка чым атдуху, каб пара ня выходзіла.* Пірагова Мсцісл.

ЗАТО́ЎЧ, *дзеясл.* Затаўчы, заправіць салам страву. *Капуста сусім выкіпіла, дылівай, ды ішчэ і затоўч нада; ні забудзься ўкінуць сала.* Слаўнае Мсцісл.

ЗАТО́ЧЫНА, -ы, *ж.* Затока. *У заточыні ногды бываіць рыба. Ета заточына ня глыбока.* Тульгава Раснян.

ЗАТРО́НУЦЬ, *дзеясл.* Зачапіць. *Ня рад, што затронуў етыга чылавека.* Сохана Мсцісл.

ЗАТРУСІ́ЦЬ, *дзеясл.* Затрэсці, засыпаць, закрыць усякаю дробяззю. *Вырыў ямку ны лісіцу, ды затрусіў чым пупала.* Палуж Краснап.

ЗАТРУЧЫ́НЫЙ, *прым.* Атручаны. *Затручыный пырасёнык кладзецца ў лясу, а галодный воўк, як зьесьць, так і здохніць.* Бяседавічы Хоцім.

ЗАТРЭ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Затрэсці. *Нешта цябе цяцюха затрасла.* Пацкава Мсцісл.

ЗАТУЖЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Засумаваць. *Затужылі кызакі, што зысталісь без тыбакі.* Сохана Мсцісл.

ЗАТУ́КЫНЫЙ, *прым.* Затуканы, запалохапы. *Хлопчык затукыный, вырыс у чужых людзей і быў ні то быязьлівэй, ні то дурачок.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАТУ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Затукаць, запалохаць. *Кылі за ўсё стаць сваріцца на дзіцёнка, дык і затукыць лёгка, і ён станіць каждыга быяцца.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАТУ́ЛЕНЫЙ, *прым.* Затулены. *Затуленыя з двух бакоў узгоркымі, а з трэцьцяга лесам, вёска была відна толькі з аднаго боку.* Сохана Мсцісл.

ЗАТУЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Зачыніць, закрыць. *Рана затулілі юшку: чадым пахніць.* Бялішчына Мсцісл.

ЗАТУПІ́ЦЦА, *дзеясл.* Затупіцца, зрабіцца тупым. *Сьвердзіл дужа затупіўся.* Ташна Клім.

ЗАТУПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Затупіць. *Што ты рабіў сякерыю, што так затупіў, нешта з пяском рабіў ці што?* Пячонкі Раснян.

ЗАТУШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Затушыць, патушыць. *Затушы махнытку, нашто дыміць.* Крычаў.

ЗА́ТХЛЫЙ, *прым.* Затхлы, цяжкі для дыхання. *У етый хаце затхлый воздух.* Кокатава Мсцісл.

ЗАТЫКА́ЦЬ, *дзеясл.* Затыкаць. *Такей гармідыр пыднялі, што хуць вушы затыкай.* Юркаўка Крыч. *Ну які ж у цябе разьлівы голыс — проста хуць вушы затыкай.* Ушакі Чэрык.

ЗАТЫ́КНУТЫЙ, *прым.* Заткнуты. *Пыглядзі, ці добря бачоных затыкнутый, штоб у дарозі выда ні вылівалысь.* Маластоўка Краснап.

ЗАТЫ́М, *прысл.* Затым, таму, дзеля таго. *Я ўцікаў затым, што быяўся сыбакі.* Слаўнае Мсцісл. *А звонка, звонка сасонка. ‖ А затым ты звонка, што ў бару!* З нар. песні.

ЗА́ТЫУКА, -і, *ж.* Затаўка [заправа]. *Будзе груца з затыўкай, пытаўчы сала ў ступі і пыкладзі ў гаршчок.* Парадзіна Мсцісл.

ЗАЎГО́ДНА, *прысл.* Колькі хочаш. *Гарэлкі было колькі заўгодна.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАЎГО́ЛЬЛЯ, -я, *н.* Завуголле, месца за вугламі. *Ну Йванава ж і дзейка — учора ўсіх хлопцаў вадзіла па заўгольлю!* Новыя Капачы Мсцісл.

ЗАЎДО́ВІЦЬ, *дзеясл.* Заўдавець, зрабіцца ўдавою ці ўдаўцом. *Пыраска заўдовіла.* Палуж Краснап.

ЗАЎЛЫДА́ЦЬ, *дзеясл.* Заўладаць, зрабіцца ўладальнікам. *Пысяліўся ў чужым дварэ і сумеў заўладаць усім чужым дабром.* Сохана Мсцісл.

ЗАЎПІ́РАЦЦА, *дзеясл.* Заўпарціцца. *Такі ўжо нягоднік: як заўпіріцца, то хуць што йму гуварі — 'сёроўна ні паслухыіць.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАЎСЕ́ГДЫ, *прысл.* Заўсёды. *Ен ніколі во врімя ні прішоў, заўсёгды апазьніцца.* Бяседавічы Хоцім. *Я пірагі пяку заўсёгды ў макатрэ.* Бялішчына. Мсцісл.

ЗАЎСЕ́ДЫ, *прысл.* Заўсёды. *Мы заўсёды ходзім купацца ўвечары.* Гусарка Клім. *Заўсёды лепш самому гаспыдарыць, як пыслугай быць.* Ушакі Чэрык.

ЗАЎСІ́ГДАШНЫЙ, *прым.* Заўсёдны, штодзённы. *Ета маі заўсігдашны бушмакі. Касьцюк — заўсігдашный мой туваріш.* Маластоўка Краснап.

ЗА́ЎСТРА, *прысл.* Заўтра. *Мы заўстра будзім мачыць пяньку ў вашу сажылку.* Бялішчына Мсцісл.

ЗА́ЎТРА, *прысл.* Заўтра. *Заўтра ў суседній дзярэўні кірмаш, будзе многа гындляроў.* Пацкава Мсцісл.

ЗА́ЎТРІ, *прысл.* Заўтра. *Дыбраныч, жнейкі мыладыя, пыраней заўтрі пріхадзіця!* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ЗА́ЎТРІК, -а, *м.* Снеданне. *У нас ужо такей звычай — хадзіць мылаціць досьвітку і ды заўтріку канчаць.* Бяседавічы Хоцім.

ЗАЎЧО́РА, *прысл.* Заўчора. *Заўчора, учора і сяньні — тры ньні пыдряд дождж ідзець.* Арцёмаўка Міласл. *Заўчора я хадзіла ў горад.* Гусарка Клім.

ЗАЎЧЭ́СЬНЯ, *прысл.* Заўчасна, раней часу. *Ні хваліс ты заўчэсьня. К усякыму дзелу заўчэсьня гатоўсь.* Кокатава Мсцісл.

ЗАХАДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Заходзіцца, заміраць. *Як пычане пець, дык аж серца заходзіцца, так ладна пяе.* Парадзіна Мсцісл. *Плачыць, аж заходзіцца.* Хвёдараўка Краснап. 2. Хваляваца. *Чаго ты заходзісься? Зыспакойся!* Палуж Краснап.

ЗАХАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Заходзіць. *Ну хоць бы вы прадухавіну пусьцілі ў склепі, ато ўсё пагніець, бо туды ж чысты воздух ні заходзіць.* Ушакі Чэрык.

ЗАХАЦЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Захацець. *Ён такі ўжо чылавек, калі што ўжо захочыць, то зробіць.* Пірагова Мсцісл. *Прапаныва́ў я ёй ісьці са мною — ні захацела — ну і ні нада.* Ушакі Чэрык.

ЗАХВАРЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Захварэць. *Янка захварэў ны цяцюху.* Чыгрынаўка Раснян. *Ці ведаеш ты, што Лёкса захварэла?* Мсціслаў.

ЗАХВАЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Захапіць. *Захваціў з сабою ўсё неабходныя. Захваціў частку чужыя сенажаці.* Сохана Мсцісл.

ЗАХІ́ЛІНЫЙ, *прым.* Сагнуты. *Бярёзка ат ветру захілілась і стаіць захіліныя.* Палуж Краснап.

ЗАХО́ВА, -ы, *ж.* Захаванне. *Лучшыя захова дзеніг — ета ў кыбаку.* Лютня Краснап.

ЗАХО́Д, -у, *м.* Захад, час калі заходзіць сонца. *Сонца ўжо ны заходзі.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ЗАХО́ДЛІВЫЙ, *прым.* 1. Заходлівы, нервовы; чалавек, што лёгка выходзіць з нармальнага стану, ускіплівы. *Ён дужа заходлівы чылавек, абы што, так і ўскіпіць, але посьле адойдзя.* Хвёдараўка Краснап. 2. Што заходзіцца, замірае [ад плачу]. *Заходлівыя дзіця, ніяк ня ўцішыш.* Там жа.

ЗАХО́ДНІЙ, *прым.* Заходні, з заходняга боку. *Нашы заходнія суседзі — літвіны.* Слаўнае Мсцісл.

ЗАХО́ДНЫЙ, *прым.* Заходны, даступны для ўваходу ўсім. *Усякыя набрыдзь прэцца ў маю хату, як у мяне заходны дом.* Палуж Краснап.

ЗАХУ́ТЫЦЬ, *дзеясл.* [Захутаць], уцяпліць. *Захутылі на зіму хату, будзіць цёпла.* Палуж Краснап.

ЗА́ХЫД, -у, *м.* Захад, заходні бок, дзе сонца заходзіць. *З захыду надзьвігаіцца туча.* Сохана Мсцісл.

ЗАЦЕ́ІЦЬ, *дзеясл.* 1. Завесці, пачаць. *Валынку зацеіў.* Хвёдараўка Краснап. 2. Прымусіць. *Мяне зацеілі ета зрабіць.* Сохана Мсцісл.

ЗАЦЕНЬ, -і, *ж.* Зацень, засень, закрытае ад сонца месца. *Жыта ў зацені. Пыстаў кыня ў зацень.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАЦЕ́ПІСТЫЙ, *прым.* Дрэнна зачэсаны. *Клін етый зацёпістэй.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАЦІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Завадзіць, пачынаць. *Я аттуліцька даў ходу, як толькі пыбачыў, што яны заціваюць.* Палуж Краснап.

ЗАЦІ́НКА, -і, *ж.* Упартасць, загана ў каня [натурлівасць]. *Етый конь з зацінкаю: калі не захочыць, дык і не станіць у ваглоблі.* Гарбавічы Касцюк.

ЗАЦІ́РКА, -і, *ж.* Заціркa, страва з ржаной мукі. *Матка ныварыла заціркі.* Вінаградаў Мілaсл. *Улі мне, Зося, заціркі, я сірбану ды пыбягу.* Крычаў.

ЗАЦІ́Ў, -ву, *м.* Загад, распарадак. *Добрыя бацькі робяць заціў дзецям ды працы, і дзеці ахвотна выпыўняюць працу пы ласкывыму заціву.* Сохана Мсцісл.

ЗАЦІ́ШНА, *прысл.* Зацішна. *У лесі было зацішна ат ветру.* Сохана Мсцісл. *У раўку зацішна.* Ляхі Чэрык.

ЗА́ЦІШНА, *прысл.* Зацішна. *У лесі зацішна.* Палуж Краснап.

ЗАЦУРУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Зацыраваць, зашыць дзірку ў адзенні. *Зацуруй-ка ты мне сподку, ато распусьціцца ўся.* Добрае Мсцісл.

ЗАЦЫ́РКЫЦЬ, *дзеясл.* Зацыркаць, закрычаць [пра цыркуна]. *Чуць толькі сьцямнела, так цыркун і зацыркыў.* Бяседавічы Хоцім.

ЗАЦЬВІЛЫ́Й, *прым.* Забраснелы. *Квас ужу ніхарошый, зацьвілэй — выліць яго нада.* Гарцуеўка Краснап.

ЗАЦЬВІ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Зацвісці. *Етый цьвет сырвалі, ні даўшы яму зацьвісьць— відзіш, яшчэ ні распусьціўся.* Арцёмаўка Міласл. *Сон ужэ зацьвіў—ня будзе больш марозаў.* Барысавічы Клім.

ЗА́ЦЬМА, -ы, *ж.* Зацьма, зацямненне розуму. *Ны мяне нейкыя зацьма ныйшла: ні магу прыпомніць айдзе я йду і што дзелыю.* Жалезніца Краснап.

ЗАЦЬМЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Зацмець, затлець, пачаць гарэць без агню. *Ад іскры рубашка зацьмела і чуць не прагарэла.* Сохана Мсцісл.

ЗАЦЬМІ́ЦЬ, *дзеясл.* Зацміць, заступіць свет, сонца. *Тучы зацьмілі сонца.* Сохана Мсцісл.

ЗАЦЭ́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Захаваць, ашчадзіць [зберагчы]. *Зацэліў яшчэ хлеба к вясьне пудзікыў дзьвесьця.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАЦЯ́ГАВІЧ, -а, *м.* Частка жаночае адзежы, ліфчык. *Зацягавіч ціска пашыт.* Крычаў.

ЗАЦЯГНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Зацягнуць. *Зацягні калёсы пад павець.* Зоры Крыч.

ЗАЦЯ́ЖНЫЙ, *прым.* Зацяжны, працяглы. *Пычаўся зацяжны дождж.* Барысавічы Клім.

ЗАЧАПІ́ЦЦА, *дзеясл.* Зачапіцца. *Ат'ялівай улева, ато калёсы зачэпюцца.* Слаўнае Мсцісл.

ЗАЧАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Зачапіць. *Зачапіў ды ня можыць адчапіцца ат етых драчуноў.* Сохана Мсцісл. *Ніхай-тка зачэпіць мяне, дык і зубоў ні сышчытая.* Палуж Краснап.

ЗАЧАРПНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Зачэрпнуць. *Зачарпні ў конаўку крыху вады.* Тур'я Чэрык.

ЗАЧАСА́ЦЦА, *дзеясл.* Зачасацца. *Нешта ты сяньня зачасалась гылалоб!* Юшкі Мсцісл.

ЗАЧА́ЎРЫЦЬ, *дзеясл.* Зачаўрэць, засохнуць, зрабіцца кволым, замучаным. *Краска зачаўрыла.* Крычаў.

ЗАЧУ́ЦЬ, *дзеясл.* Пачуць. *Думаў ужо прыпаду ў полі, заблудзіўшы, але зачуў брэх сыбачы, во і вышыў ны яго ды дзярэўні.* Ляхі Чэрык.

ЗА́ЧЫ, *прысл.* За вочы. *У вочы, як лісіца, лісьціць, а зачы што ён кажыць.* Горня Хоцім. *Люблю праўду скызаць ці ў вочы, ці зачы.* Сохана Мсцісл.

ЗАЧЫ́М, *прысл.* Чаму, нашто. *Зачым мне клясьць тыварыша, калі ён нівіныват?* Слаўнае Мсцісл. *Зачым ты ды нас прышоў?* Сохана Мсцісл.

ЗАЧЫ́Н, -у, *м.* Зачын, пачатак. *Ён першый пыкызаў зачын, а за ім пашлі і ўсі.* Бяседавічы Хоцім. *Ці дажджомся мы зачыну жаць жыта?* Слаўнае Мсцісл.

ЗАЧЫ́НЕНЫЙ, *прым.* Зачынены. *Дзьверы ў хаце зачынены ны замок, відаць, нікога дома німа.* Машавая Бялынкав.

ЗАЧЫНІ́ЦЦА, *дзеясл.* Зачыніцца. *Што ета ты зачыніўся ў хаце, як узімку, і сядзіш адзін.* Ляхі Чэрык. *Вароты зачыніліся — расчыні.* Янава Раснян.

ЗАЧЫНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Зачыніць. *Зачыні хвортку, ато карова ўцякець.* Крычаў. *Зачыні дзьверы шчытна, ато сьнегу надзьме.* Парадзіна Мсцісл.

ЗАЧЫНЯ́ТКА, -і, *ж.* Вечка. *Баба купіла дзежачку з зачыняткай.* Жлобін.

ЗАЧЫНЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Зачыняць. *Зачыняйце зы сабою дзьверы.* Сохана Мсцісл. *Зачыняй вакно.* Іванаўка Хоцім.

ЗАЧЫРВАНЕ́ЦЦА, *дзеясл.* Зачырванецца, зрабіцца чырвоным. *Зачырванелась яна ат сораму ўся.* Ушакі Чэрык.

ЗАЧЫ́РКЫВАНЬНЯ, -я, *н.* Закрэсліванне. *Ні люблю я зачыркываньня ў чыстым пісаньні, лепі перапісаць.* Слаўнае Мсцісл.

ЗАЧЫ́РКЫВАЦЬ, *дзеясл.* Закрэсліваць, закасоўваць. *Раньшы напісаў, а потым прачытаў і дывай зачыркываць напісынае.* Мсціслаў.

ЗАЧЫТА́ЦЦА, *дзеясл.* Зачытацца, углыбіцца ў чытанне. *Ён як зачытаецца, дык тады ўжо нічога ні чуець і ні відзіць, апріч сваее кнігі.* Стары Дзедзін Міласл.

ЗАЧЫТА́ЦЬ, *дзеясл.* Зачытаць, прачытаць. *Зачытай ты нам етую паперу, што ў ёй тут напісына.* Пячонкі Раснян.

ЗАЧЭ́ПЛІВЫЙ, *прым.* Зачэплівы, зачэпны. *Етый хлопіц дужа зачэплівый, нікога так ні мінець, штоб ні зычапіць чым-нібудзь: ці ўшчыпнець, ці ўдарыць, ці абругаіць.* Бяседавічы Хоцім.

ЗАШАМАЦЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Зашамацець, зашалохаць. *У кустоў зашамацела птушка і спудзіла кыня.* Пацкава Мсцісл.

ЗАШКЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Зашкліць, уставіць у раму шкло. *Нада сказаць татку, каб зашкліў вокны ў хаце, бо халодна.* Пірагова Мсцісл.

ЗАШКРА́БЫЦЬ, *дзеясл.* Зашкрабаць. *Зашкрабыў тут у сваіх ботых, усё пірятопчыць.* Іванаўка Хоцім.

ЗАШКРЭ́БЦІ, *дзеясл.* Пачаць чухаць, драпаць пазногцямі. *Пычаў ужо шкрабыць ногі — кымары пукусалі, зашкроб ужо!* Парадзіна Мсцісл.

ЗАШЛЫ́НДЫЦЦА, *дзеясл.* Захадзіцца без справы, загуляцца [зацягацца]. *Зашлындыўсь і абед прываронію.* Парадзіна Мсцісл.

ЗАШПІ́ЛІНЫЙ, *прым.* Зашпілены. *Кыбат у яе быў зашпілін ны адзін кузік.* Арцёмаўка Міласл.

ЗАШПІЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Зашпіліцца. *Зашпіліся ты, ня бегай расхістаный, еткій вецір ны дваре, ты ж зьмерзьнеш.* Залесавічы Крыч.

ЗАШПІЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Зашпіліць. *Зашпілі кайнер.* Галоўчыцы Калінінчына. *Зашпілі гаплік у сукенцы.* Гібалы Касцюк.

ЗА́ШПУЛЬКА, -і, *ж.* Зашпілька. *Зашпулькі німа, нечым зашпіліцца.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАШЧО́ЧЫНА, -ы, *ж.* Шчака. *Як далі пы зашчочыні, дык і баліць і стыдна стала.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАШЧУ́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Захапіць у лапы. *Зашчучыў воўк карову.* Хвёдараўка Краснап.

ЗАШЫ́ЙНІК, -а, *м.* Шалік. *Зывяжы зашыйнік, ато будзе халодна.* Новыя Капачы Мсцісл.

ЗАШЫРО́КІЙ, *прым.* Шырэйшы як трэба. *Кайнер у кашулі зашырок.* Малюшын Краснап.

ЗАШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Зашыць, залапіць. *І ня стыдна табе хадзіць такім абыдранцум, зашыў бы ты хуць сам сваё плацьця, ато расься вісіць.* Бяседавічы Хоцім.

ЗАЮ́ШЛІВЫЙ, *прым.* Заўзяты. *Ён ны работу заюшліў.* Горкі Краснап.

ЗАЮШЛІВЫЦЦА, *дзеясл.* Завіхацца. *Ны рабоці Лукаш заюшлівыіцца, у яго ў руках усе гарыць.* Залачоўка Краснап.

ЗАЮ́ШЫЦЦА, *дзеясл.* Увайсці ў азарт. *Во заюшыўся, што нічога ня чуіць.* Кокатава Мсцісл. *Баба заюшылась кыла печы, а карова ў шкоду пышла.* Палуж Краснап.

ЗА́ЯДЗЬ, -і, *ж.* Заедзь, астаткі ад корму за зубамі ў старых коней. *У кыня зы зубамі заядзь.* Хвёдараўка Краснап.

ЗА́ЯДЛЫЙ, *прым.* Заядлы, злы, азартны. *Ах, якей жа ты, брат, заядлый, аж пачырваней.* Смолькаўская Буда Бялынкав.

ЗАЯЖДЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Заязджаць. *Заяжджай часьцей, будзеш пыжыланый госьць!* Пірагова Мсцісл.

ЗАЯ́Ц, -а, *м.* Заяц. *У хмызьняк пабег заяц, я стрэліў, але схібіў, так ён і ўцёк.* Ушакі Чэрык. *Глянь, у майго сыбакі ўся пыса ў крыві — пэўна зноў зайца зыдраў.* Барысавічы Клім. *Сыбака зайца пачуіць зы вярсту.* Арцёмаўка Міласл.

ЗА́ЯЧЧЫЙ, *прым.* Заячы. *Заяччу шкурку купіў, аблавуху із्дзелыю.* Мсціслаў.

ЗА́ЯЧЧЫЯ ВУШКА, *бат.* Грыб. *Красьнінькій грыбок — ета заяччыя вушка.* Хвёдараўка Краснап.

ЗБА́ВІЦЦА, *дзеясл.* Пазбавіцца. *Рыскажы, арёл, майму татухну, ‖ А што Ганеша з сьвету збавілась.* З нар. песні.

ЗБА́ЙСЫЦЬ, *дзеясл.* Растраціць, распусціць. *Усё мае збайсыў, а цяпер голы зыстаўсь.* Хвёдараўка Краснап.

ЗБАНКРУ́ЦІЦЦА, *дзеясл.* Збанкрутавацца, страціць давер. *Етый чылавек нінадзёжный, яму апасна давіряць грошы, ён збанкруціўся.* Бяседавічы Хоцім.

ЗБІЗУМЕ́ЛЫЙ, *прым.* Звар'яцелы. *Што зь ім стала: ходзіць як збізумелый?* Лютня Краснап.

ЗБІЗУМЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Згубіць розум, звар'яцець. *Збізумеў ты, ці што? Хлыпца чуць ні ўбіў, за што ты яго?* Хвёдараўка Краснап.

ЗБІЦЦА, *дзеясл.* Збіцца, зблудзіць. *Ішоў, ішоў ды з дарогі збіўся і ні ведыю, куды далей іціць.* Зоры Чэрык. *Як я віжу, ты ўжо, Якыў, з панталыку збіўся.* Канічы Касцюк.

ЗБЛІ́ЗКУ, *прысл.* Зблізку, з блізкай адлегласці. *Трэба было зблізку стряліць, здаліку ні пупадзеш.* Палуж Краснап.

ЗБО́ЖЖА, -а, *н.* Збожжа, зерневы хлеб і ўсякае зерне. *Збожжа сыплюць у клець.* Крычаў. *Я прыдаў збожжа агулым.* Лешчынка Мсцісл. *Поўны клямыр наложаны збожжым.* Пухнава Раснян.

ЗБО́РКА, -і, *ж.* 1. Сходка, сход. *Тат! На зборку зыказываюць. Ідзі-ка паслухай, можа зямлю будуць дывацьь.* Гібалы Касцюк. 2. Заборы, складкі ў адзенні. *У кохці многа зборык.* Хвёдараўка Краснап.

ЗБО́РШЧЫК, -а, *м.* Зборшчык, чалавек, што збірае падаткі. *Ён пры царе быў зборшчыкум, дык ні адзін хто ад яго пуплакуў.* Бяседавічы Хоцім.

ЗБО́РЫШЧА, -а, *н.* Зборышча. *Што вы тут зборышча робіця?* Хвёдараўка Краснап.

ЗБРОД, -а, *м.* Шкоднік, збродлівы. *Наш кот дужа бальшый зброд; нійдзе нічога ні пыстаў — усюдых свой нос уватькнець.* Слаўнае Мсцісл.

ЗБРО́ДЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Збродаваць, шкодзіць (пра ката). *Наш кот збродыіць— нійдзе нічога ні пыстаў.* Слаўнае Мсцісл.

ЗБРУ́Я, -і, *ж.* Збруя, вупраж. *У яго конь харошый, калёсы новінькія і збруя ряменная ўся ат хымута да дугі.* Арцёмаўка Міласл.

ЗБРЫ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Збрыдзіць. *Як пубачыў я ета — дык мяне збрыдзіла.* Хвёдараўка Краснап.

ЗБРЭЗЬ, *прысл.* Поўна, праз меру, цераз край. *Ты ўжо збрэзь наліў.* Хвёдараўка Краснап.

ЗБЫ́ТАЧНЫЙ, *прым.* Такі, што мае збыцца [спаўняльны]. *Ці збытачныя тваe думкі будуць?* Сохана Мсцісл.

ЗБЫТКУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Кпіць. *Ні звірьтай ны яго словы ўвагі — ён збыткуіць. Збыткуваць ён масцірь.* Лютня Краснап.

ЗБЫ́ТЫК, -тку, *м.* Збыт. *Сёліта скот ны бызарі меіць вялікій збытык.* Слаўнае Мсцісл.

ЗБЫУЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Пазбаўляць, зжываць. *На ж табе, сьвякроўка,* ‖ *Пылуношный вады!* ‖ *Ні вадзіцы бyжала —* ‖ *Цябе зь сьвету збыўляла.* З нар. песні.

ЗБЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Збыцца, споўніцца. *Тое, што ты кызаў, збылось — уцёк жа гэты разбойнік з турмы.* Ушакі Чэрык.

ЗБЫЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Хутка пашыць. *Збычала кохту скора.* Хвёдараўка Краснап.

ЗБЭ́ЙСАЦЬ, *дзеясл.* Здратаваць, стаптаць [знішчыць, згубіць]. *Луг збэйсалі кынямі.* Гарадзец Міласл.

ЗВАЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Зварочваць увагу. *Ну, ды што вы, ні зважайця, я і тут пысяджу.* Ушакі Чэрык.

ЗВА́ЖЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Зважваць. *Зважывыць ні нада: сена ўжу зважына.* Краснаполле.

ЗВА́ЖЫНЫЙ, *прым.* Зважаны. *Кыбанчык зважыный: у ім роўна трі пуды.* Высокі Бор Краснап.

ЗВА́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Зважыць, адважыць. *Мне нада зважыць кывалык хлеба ды аддаць доўг пяць хунтый.* Слаўнае Мсцісл. *Ны складзі ніправільна зважылі маё жыта.* Палуж Краснап. 2. Уважыць, дараваць. *Няўжо ты йму зважыў еткыю подлысьць?* Маластоўка Краснап.

ЗВАЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Зваліцца, упасці. *Сёньні Рыгор зваліўсь з самыга вільчыка.* Казённая Буда Краснап. *Астрожна ты тут хадзі, ато звалісься.* Юшкі Мсцісл.

ЗВАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Зваліць, збіць воўну ў лямец. *Купіла воўны, цяпер нада зваліць валёнкі.* Слаўнае Мсцісл.

ЗВАНЕ́Ц, -нца, *м. бат.* Пустазелле, званец. *Адзін званец у жыці.* Палуж Краснап. *У жыці ны палову звынца зырадзіла.* Парадзіна Мсцісл. *У жыці званец ужу сьпелый, пытрясеш, дык ён так і зьвініць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗВАНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Званіць. *Якуб доўга званіў у звон.* Шарэйкі Касцюк.

ЗВАНО́К, -нка, *м. бат.* Званок, званкі (кветка). *Як прыгожа званкі цьвітуць.* Брылёўка Краснап. *Званкі растуць ны лугох і пы лясох.* Бялішчына Мсцісл.

ЗВАНЬНІ́ЦА, -ы, *ж.* Званіца. *І высокая ж была нашыя званьніца, як зазвоняць бывала, дык далёка чуваць.* Ушакі Чэрык.

ЗВА́НЬНЯ, -я, *н.* Назва. *Нада яго выштурхнуць з хаты, штоб і званьня яго тут ні було.* Арцёмаўка Міласл. *Нечага ўжо іці глядзець, абглездзілі людзі добрыя! Няма ні званьня!* Пірагова Мсцісл.

ЗВАРЫ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Зварыцца. *Малозіва яшчэ ні зварылася.* Крычаў. *Некылі мне: нада куріцу скусьць ды пытрашыць скарей, ато ні зваріцца.* Арцёмаўка Міласл. 2. Разамлець ад спёкі. *Зварыўсь на сонцы, млосна стала.* Брылёўка Краснап.

ЗВАРЫЦЬ, *дзеясл.* Зварыць. *Зварілі кісель з чарніц.* Слаўнае Мсцісл. *Аплялі б вы гэты гаршчок пролавакай, ато рызваліцца і есьць ні будзіць у чым зварыць.* Ушакі Чэрык.

ЗВАЦЬ, *дзеясл.* 1. Звaць (па імені). *Ету бабу зваць Лукутый.* Горкі Краснап. *Бацьку звалі Карпа, а таму, што ён быў маліінькій, дык прызвалі яго Карпекай, а дзяцей завуць — карпекіны.* Арцёмаўка Міласл. 2. Клікаць, заклікаць. *Звала к сабе мяне мыя радзіна.* Канічы Касцюк. *Завець ён яго ў хату, а той ня йдзець.* Хоцімск. *Найшло нешта ны мяне: чую — завуць, а ачнуцца, ні магу.* Парадзіна Мсцісл.

ЗВЕ́СНА, *прысл.* Вядома. *Нам звесна, што кызаў прідсідаціль, а ты скажы, на*

*чым будзім вывазіць той лес.* Б. Хутары Краснап.

ЗВЕ́ШЫЦЬ, *дзеясл.* Зважыць. *У нас вясоў німа, мы ны бязьмен звешыім: ён пыднімаіць да пуда.* Арцёмаўка Міласл.

ЗВІЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Звязаць. *Нашлежнікі майго хлыпца звізалі і пакінулі, а самі паехылі, дык ён і ліжаў, пакуль людзі пріехылі ды развізалі.* Бяседавічы Хоцім.

ЗВІНЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Абвінавачванне. *На Кліма ўзьвялі цяжкыя зьвіненьня: кажуць, ён забойца.* Горкі Краснап.

ЗВІРІНЯ́, -я, *н.* Звераня. *Хлопцы ў лесі спыймалі зьвіріня.* Залачоўка Краснап. *Цыганё ўсё роўна, ік зьвіріня, глядзіць с-пыд ілба.* Краснаполле.

ЗВІРЯ́ЧЧЫЙ, *прым.* Звярыны, зверскі. *У яго й пыгляд звірячый, глядзіць, як зверь ікі.* Лютня Краснап.

ЗВІЦЬ, *дзеясл.* Звіць. *Зві мне, сынок, аборы, ато мае ўжо пырваліся.* Крычаў.

ЗВОД, -у, *м.* Звод. *Дайней у нас былі вуткі, дык па гусі, а цяперь дробнінькія сталі, нейкій звод на іх пришоў.* Бяседавічы Хоцім.

ЗВО́ДНІК, -а, *м.* Зводнік. *Ён жа такей зводнік; прідзіць к аднаму ды ныгаворіць, што ны яго тэй кызаў тоя, а тэй кызаў ета, тады прідзіць к таму ды рысказывыіць, што на яго тэй разныга гыварій, так і пысваріць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗВО́ДНІЦА, -ы, *ж.* Зводніца. *Ну, брат, і зводніца твыя жонка, нас так звіла, што мы чуць ні пабілісь.* Бяседавічы Хоцім. *Зводніца тая ныгыварiла суседкі, што быццым я ны яе гыварiла ўсяго, а тады прішла ка мне ды кажыць, што суседка мяне абгыварівыла.* Арцёмаўка Міласл.

ЗВО́ДЫЛЬ, *прысл.* Воддаль. *Я стаў ныгібаць арешыну, а іна стала зводыль, штоп пыймаць зы макушку.* Арцёмаўка Міласл.

ЗВО́ЛЬНА, *прысл.* Павольна, неспяшаючы. *Дзелый ета звольна.* Палуж Краснап.

ЗВО́ЛЬНІЦЬ, *дзеясл.* Звольніць, аслабаніць. *Сёлета налог трохі палехчыў, а беднату і саўсім звольнілі.* Пірагова Мсцісл.

ЗВОН, -а, *м.* Звон. *Звон громка бьець.* Шумячы.

ЗВО́НКІЙ, *прым.* Звонкі, гучны. *Але і звонка твыя скрыпычка, добра йграіць.* Белы Мох Мсцісл.

ЗВЫЖА́ЦЬ, *дзеясл.* [Прабачыць], дараваць. *Няўжо ты будзіш звыжаць яму етыя выкіды?* Палуж Краснап.

ЗВЫКА́НЬНЯ, -я, *н.* Звыкласць. *Гэ, на ўсё трэба звыканьня, во пажыві трохі з намі і ўбачыш, што мы людзі, як і ўсе.* Ушакі Чэрык.

ЗВЫ́КНУЦЦА, *дзеясл.* Звыкнуцца. *Я ніяк ні магу звыкнуцца з чужою сям'ёю, хоць ужо чацьвёртый год живу замужым.* Слаўнае Мсцісл.

ЗВЫЛАЧЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Зблукацца [сцягацца], стаміцца ходзячы. *За дзень звылачыўсь: ногі аж гудуць.* Горкі Краснап.

ЗВЫЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Зваляцца, збіцца ў лямец (пра воўну). *Шэрсць доўга ляжыць, дык звылялысь, што рысчысаць цяжка.* Хвёдараўка Краснап.

ЗВЫЛЯ́ЦЬ ДУ́РНЯ. Здурніцца, адурачыцца. *Добрыга ты звыляў дурня: атдаў сваімі рукамі, а січас пайдзі вазьмі ў яго.* Маластоўка Краснап.

ЗВАРА́ЧЫВАЦЬ, *дзеясл.* Зварочваць. *Ідзі проста гэстай дарогай — убок нікуды ні звырачывай.* Ушакі Чэрык. *Звырачывый набок, ато я з возум, а ты пырыжняком.* Бяседавічы Хоцім.

ЗВЫ́РЫДЫК, -дка, *м.* Вырадак. *Ларька нейкі звырідык: ні ны каго зь іх ні спахож.* Горкі Краснап.

ЗВЫ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Плакаць. *Чаго ты звырыш? Сьціхні ўжо!* Маластоўка Краснап.

ЗВЫЧА́ЙНЫЙ, *прым.* Звычайны. *Пыстылка — звычайныя страва ў вёсцы.* Бель Мсцісл.

ЗВЫ́ЧЫЙ, -я, *м.* Звычай, абычай. *У кожный стыране свой звычый.* Машавая Бялынкав. *У нас ужо такей звычый хадзіць мылаціць досьвіту, і ды заўтріку кынчаім.* Бяседавічы Хоцім.

ЗГАВО́Р, -у, *м.* Змова. *У іх даўно ўжо быў згавор абыкрасьць наш амбар.* Бяседавічы Хоцім.

ЗГАДЖЫВЫЦЦА, *дзеясл.* 1. Згаджацца, даваць згоду. *Я ні хацеў згаджывыцца, да ўгыварілі, я й згадзіўсь.* Палуж Краснап. 2. Псавацца, рабіцца горшым [гадкім]. *Нешта хлопіц наш стаў згаджывыцца, упярёд ён луччы быў.* Бяседавічы Хоцім.

ЗГА́ДЖЫНЫЙ, *прым.* Сапсаваны. *Ня ўмееш ты шыць! Куды я яго цяпер надзену, етый тулуп, такій згаджыный?* Пірагова Мсцісл.

ЗГАДЗЕ́ННЯ, -я, *н.* Згода. *Яны так пысварылісь, што, думаю я, згадзеньня між імі ніколі ні будзіць.* Ушакі Чэрык.

ЗГАДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Згадзіцца [даць згоду]. *Ты ж сам раней згадзіўся, а цяперь пініяш на другіх.* Дубеец Касцюк. 2. Прыдацца, быць патрэбным. *Гэта пакулья яшчэ згадзіцца: зь яго можна путы віць.* Янава Раснян. *Як гудуваўсь, дык ніхто ні бачыў, а як падрос, дык і ў сылдацікі згадзіўся.* Студзянец Касцюк.

ЗГА́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Пагоршаць, стаць гадкім. *Хлопіц саўсім згадзіўсь, а быў такі лыскавый.* Горкі Краснап.

ЗГАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Пачакаць. *Хлапец згадзій трошку, а тады пыцягнуў удвору.* Палуж Краснап.

ЗГА́НІНЫЙ, *прым.* Зганены. *Ці ён украў, ці ня ён, а ўжу пыгалоска пышла ны чылавека; куды ні паткнесься, кожны глядзіць коса, чылавек зганіный раз, дык ужу ня скора аб етым забудуць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗГА́НІЦЬ, *дзеясл.* Зганіць. *Зганій чылавека зыдырма, і хуць бы што яму.* Стары Дзедзін Міласл.

ЗГАРО́ДА, -ы, *ж.* Загарада, паркан. *Ны згароду ўзьлез ды й саскочыў у сад.* Маластоўка Краснап.

ЗГАРЫ́, *прысл.* Наперад. *Грошы згары ддаў, абы прывёз яму.* Палуж Краснап.

ЗГА́РЫК, -рка, *м.* Згарак. *Згарык сьвечкі зыпалій.* Маластоўка Краснап.

ЗГАРЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Згарэць. *У дуплявым дубі хлопцы рысклалі агонь, дык ён згарэў знутра і пываліўсь.* Негін Касцюк.

*А быдай ты згарэў, во напужаў!* Старае Сяло Мсцісл. *Наша гумно згарэла.* Крычаў.

ЗГАСНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Згаснуць, стухнуць. *У лямпі красіну німа, скора згасьніць.* Паходавічы Чэрык. 2. Памерці. *Ляжыць іна доўга ўжо, хутка згасьніць.* Там жа.

ЗГІДЗІЦЦА, *дзеясл.* Згідзіцца. *Я, глянуўшы ны падла, магу згідзіцца і вырваць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗГІДЗІЦЬ, *дзеясл.* Згідзіць [выклікаць агіду]. *Ні кажы пра чарвей, ато згідзіш, дык есьці ня буду.* Старае Сяло Мсцісл.

ЗГІНУЦЬ, *дзеясл.* Згінуць. *Абкыланты-рыла ўсіх суседзяў, шукаючы ягнят, відна, згінулі!* Пірагова Мсцісл.

ЗГЛЫМЫЗДАЦЬ, *дзеясл.* Зглamaздзіць, зрабіць абы-як. *Ці ета гырыдзьба, зглымыздаў абы-як.* Хвёдараўка Краснап.

ЗГНІЦЬ, *дзеясл.* Згніць. *Тын згніў, і погріб абваліўсь.* Бяседавічы Хоцім. *Згніло маё дрэва, лежачы пыд сьцяной.* Лешчынка Мсцісл. *Падмосьнікі згнілі, і мост абламіўся.* Крычаў.

ЗГНЮСІЦЬ, *дзеясл.* Згнюсіць, сапсаваць. *Пашылі плацьця, але ж так згнусілі, што нікуды!* Дарагая Крыч.

ЗГОДА, -ы, *ж.* Згода, лад. *Ета ўжо ня жыцьцё, калі ў сямьі няма згоды.* Дубеец Касцюк.

ЗГОДНЫЙ, *прым.* Згодный. *Ён згодзен працуваць абы-йдзе.* Папоўшчына Мсцісл.

ЗГРАБНЫЙ, *прым.* Зграбны, добрага складу, стройны. *Дзеўка тыкая зграбныя, як ікая гырыдзкая паненка.* Парадзіна Мсцісл.

ЗГРАЗІЦЬ, *дзеясл.* Выказаць пагрозу. *Ты мне ні згразіш, і я цябе ні баюсь.* Палуж Краснап.

ЗГРАЙНЫЙ, *прым.* Зграбны. *Зграйный конік будзець з етыга жырібяці.* Лютня Краснап.

ЗГРІБЕЛЫЙ, *прым.* Згрыбелы, састарэлы, як грыб. *Старій ён стаў, ужу згрібелый сайсім.* Залачоўка Краснап.

ЗГРІБЕЦЬ, *дзеясл.* Згрыбець, састарыцца. *Ягор ужу згрібеў: хадзіць ня можыць.* Лютня Краснап.

ЗГРІЗА, -ы, *ж.* Згрызота, нелады, сварка. *Ныдаела мне етыя пыстыянныя згрíза, хуць ба адзін дзень прайшоў ціха.* Залачоўка Краснап.

ЗГРОБСЬЦІ, *дзеясл.* Схапіць. *Хлопчык хацеў згробсьці дзяўчонку за чуб, ды іна ўцікла.* Палуж Краснап.

ЗГРЫЗЬЦЬ, *дзеясл.* Згрызці. *Сяньні чорны трус згрыз два кычаны капусты.* Бяседавічы Хоцім.

ЗГРЭСЬЦЬ, *дзеясл.* Згрэбці. *Ні пасьпеў да дождажу згрэсьць сена, дык і будзіць цяпер яго гнаіць непагыдзь.* Сохана Мсцісл. *Нешта пахмурна, нада сена згресьць, штоб дождж ні пашоў.* Арцёмаўка Міласл.

ЗГУБІЦЦА, *дзеясл.* Згубіцца. *Згубілась мыя банька, і ціпер німа як касы прымайстрываць к касьсю.* Ушакі Чэрык.

ЗГУБІЦЬ, *дзеясл.* 1. Згубіць, страціць. *Хлопіц згубій складаны ножык.* Бель Мсцісл. *На хоць шпількый прышпілі спадніцу, ато згубіш.* Ушакі Чэрык. *Замуж я пайду, крысату згублю,* || *Крысату згублю, мужа ныжыву.* З нар. песні. 2. Загубіць. *Памей ты совісьць, ты ж мяне згубіць хочыш.* Дарагая Крыч. *Мыя мамычка лісьліва ў саду цьвецік сырвала;* || *Мяне молыду згубіла — рана замуж аддыла.* З нар. песні. Арцёмаўка Міласл.

ЗГУВАРІВЫЦЦА, *дзеясл.* Згаворвацца, дамаўляцца. *Я пашоў, а мае суседзі сталі згуварівыцца, каб ехыць разым ны кірмаш.* Слаўнае Мсцісл. *Мы заўтра паедзім згуварівыцца нашчот мылацьбы, каб яны нам пымаглі.* Пірагова Мсцісл.

ЗГУЛЯЦЬ, *дзеясл.* Згуляць. *У Аксюты сяньні сваты былі, і запоіны згулялі, свадзьба скора будзіць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗГЫВАРЫЦЦА, *дзеясл.* Згаварыцца. *Аб часе адпачынку вы згывaрыціся міжсобку, каб ніякія замінкі ня было.* Мсцíслаў.

ЗГЫДЖАЦЦА, *дзеясл.* Згаджацца, даваць згоду. *Ці ты здурей, што згыджаісьсі на такоя дзела: ета ж пад суд пупасьць можна.* Горкі Краснап.

ЗГЫРЫВАЦЦА, *дзеясл.* Згаравацца, заплакацца, засумавацца [звесціся ад гора]. *Хадоска згырывалыся па сыну.* Тур'я Краснап.

ЗДАБЫВАЦЬ, *дзеясл.* Здабываць. *Я з чатырнаццыці гадоў пычаў здабываць сам сабе хлеб.* Маляцічы Крыч.

ЗДАБЫТ, -а, *м.* Здабытак. *Ярміла паехыў у здабыт: хочыць сінакосу ці гатовыга сена купіць.* Хвёдараўка Краснап.

ЗДАБЫЦЬ, *дзеясл.* Здабыць, набыць. *Ты навіт люцкай сьвіткі ні маіш — за ўвесь век ні мог здабыць сабе.* Ушакі Чэрык.

ЗДАБЫЧА, -ы, *ж.* Здабыча. *Лявон пайшоў нейдзе ны здабычу, а мы чыкалі, мо' што й прінясець.* Стары Дзедзін Міласл.

ЗДАВАЦЦА, *дзеясл.* Здавацца. *Мне здаецца, што ён хваліўсь адносна свайго заработку.* Канічы Касцюк. *Ды аксьціcь! Здаецца ета табе — нікога там німа.* Парадзіна Мсцісл.

ЗДАВАЦЬ, *дзеясл.* Здаваць, раздаваць (пра карты). *Ну, спрытней ты картуй ды здавай, а хадзі з казыра.* Парадзіна Мсцісл.

ЗДАВІН-ДАЎНА, *прысл.* Здаўна. *У нас етый абычай здавін-даўна, што на кыляды хлопцы з звіздой ходзяць.* Маластоўка Краснап. *Етый японіц ужу здавін-дыўна тут жывець, яшчё як японскыя выйна была, дык ён, я помню, ужу тут жыў.* Арцёмаўка Міласл.

ЗДАВОЛ, -у, *м.* Здавальненне. *Ныстаў здавол яго хаценьню: дыстаў, што хацеў.* Бяседавічы Хоцім. *Січас я ў пойным здаволу — наеўсь і накуріўсь.* Палуж Краснап.

ЗДАВОЛІНЫЙ, *прым.* Задаволены. *Я жаніўся і цяпер дужа здаволін сваёй жонкый.* Пірагова Мсцісл.

ЗДАВОЛІЦЦА, *дзеясл.* Здаволіцца. *Еў, колькі хацеў, пакуль ні здаволіўся.* Пухнава Раснян.

ЗДАВОЛІЦЬ, *дзеясл.* Задаволіць. *Чаркый яго ні здаволіш — яму і пыўкварты мала.* Гібалы Касцюк.

ЗДАВО́ЛЬВЫЦЦА, *дзеясл.* Здавальняцца. *Жадный дзень так бы здавольвыцца, ік я січас здаволіўсь.* Б. Хутары Краснап.

ЗДАГО́НЯ, -і, *ж.* Здагон [даганянне, пагоня]. *Кінуўсь у здагоню, ды ні дыгнаў.* Крывы Лес Шумяц.

ЗДАГЫНЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Даганяць. *Здагыняў Ляксея, ды ні здыгнаў — ўцёк, шэльма.* Затоны Раснян. *Я выйшаў усьлед зы табою, але ж ты так шпарка пашоў, што я здагыняў-здагыняў, ды ні здыгнаў.* Пухнава Раснян.

ЗДАЛЁКУ, *прысл.* Здалёк. *Здалёку ішоў гэсты чылавек — зымарыўсь.* Ушакі Чэрык.

ЗДАЛЕ́ЧА, *прысл.* Здалёк. *Здалеча высунуўся воўк.* Палуж Краснап.

ЗДАЛІ́, *прысл.* Убаку, на некаторай адлегласці. *Здалі ат хутыра возіра ёсьць, а ў ім рыбы многа.* Трубільня Краснап.

ЗДА́ЛІКУ, *прысл.* Здалёку. *Бацька яшчэ здаліку загледзіў воўка.* Палуж Краснап. *Трэба було зблізку стріляць, здаліку ні пупадзеш.* Палуж Краснап.

ЗДАНЬ, -і, *ж.* Здань. *Як здань якая, ты ходзіш за мною — хоць бы зьгінуў ты.* Ушакі Чэрык.

ЗДА́НЬНЕ, -я, *н.* Здань. *Я дужа спужалыся ноччу: прашнулыся — гляджу, стаіць белыя зданьне; калі прігледзілыся, дык ета вялікі белы жбан.* Слаўнае Мсцісл. *Сяньні мне такоя зданьне случылысь, што аж валосься дубум стала.* Бяседавічы Хоцім.

ЗДАРО́ВІКА, -а, *н.* Здароўе. *Не пагрэбуйця, госьці дырагія, пейце, езьце ны здаровіка!* Пірагова Мсцісл.

ЗДАРО́ВІЦЦА, *дзеясл.* Быць здаровым. *Чагось-та не здаровіцца маткі, нешта ўсё хвареіць.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ЗДАРО́ВЫЙ, *прым.* Здаровы. *У яго два сыны, адзін тонкій, вісокій, а другей прізёмістый, здаровый.* Бяседавічы Хоцім. *Надойчы я яго здаровыга бачыў, а сеньня ўжо й памёр.* Старае Сяло Мсцісл. *Ці здарова дзіціня тваё?* Палуж Краснап.

ЗДАРО́ЖЫЦЦА, *дзеясл.* Здарожыцца, стаміцца ў дарозе. *Тры дні быў у дарозі, здарожыўсь сусім.* Палуж Краснап.

ЗДАРО́Ў. Прывітанне «здароў». *Здароў, кум Даніла, як маесься?* Сохана Мсцісл.

ЗДАРО́ЎКЫЦЦА, *дзеясл.* Здароўкацца, вітацца. *Пришоў госьць і пычаў здароўкыцца с усімі, хто быў у хаці.* Слаўнае Мсцісл.

ЗДАРО́ЎЯ, -я, *н.* Здароўе. *Ікаво тваё здароўя?* Гібалы Касцюк. *Сусім дрэнь маё здароўя: слаб стаў, часта хварэю, ні магу працуваць.* Сохана Мсцісл. *Дзіцёнка выгыдываць — многа нада здароўя пылажыць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗДА́РЫЦЦА, *дзеясл.* Здарыцца. *Нада ж было так здарыцца, што ў етый час я з дому адлучыўся!* Бяседавічы Хоцім.

ЗДАРЭ́НЬНЯ, -я, *н.* Здарэнне. *Ну, ішчэ такога здарэньня ні было са мною, як учора — гэта ж чуць ні ўтапіўся!* Ушакі Чэрык.

ЗДА́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Здацца, схіліцца на просьбу [і скарыцца]. *Прасілі-малілі, ні хацеў дываць, а ў канцы здаўся-такі.* Маластоўка Краснап. 2. Здацца, паказацца. *Мне здалося, што бацька едзіць, ажно йта чужэй.* Арцёмаўка Міласл. 3. [Паспадзявацца, разлічваць], пакласціся, абнадзеіцца. *Здылася я ны цябе, але німа ведыма ці зробіш ты.* Палуж Краснап.

ЗДАЦЬ, *дзеясл.* 1. Паддацца ў барацьбе. *Ня бойсь, я табе ні здам, а скарэй, чым ты, паборыю.* Трубільня Краснап. 2. Раздаць (пра карты). *Ты здаў ніхорыша — у мяне ніводныга козыря німа.* Горня Хоцім.

ЗДЗЕ́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Стаць дзедам, састарэць. *Вульлян быў такі здаровы, а січас здзедзіўсь саўсім, біс палкі хадзіць ні можыць.* Залачэўка Краснап.

ЗДЗЕ́ІНЫЙ, *прым.* Здзейснены. *Задум твой здзеіный ужу: хата ёсьць, конь ёсьць, сам — кум кыралю.* Горкі Краснап.

ЗДЗЕ́ІЦЦА, *дзеясл.* Здарыцца. *Упірёд ні ўвызнаіш, што можыць здзеіцца з табою: ны гладкый дарогі можыш ногі пулумаць.* Лютня Краснап.

ЗДЗЕ́ЛЫЦЬ, *дзеясл.* Зрабіць. *Я здзелыў сабе новыя драбіны.* Янава Раснян. *Я здзелыў сабе дудку з сасны, ды граіць ніладна.* Шарэйкі Касцюк. *Набілкі здзелылі кароткія, і бёрда ня месьціцца.* Слаўнае Мсцісл.

ЗДЗІКА́ЦЦА, *дзеясл.* Здзекавацца. *Дос табе здзікацца зь мяне!* Кажамякіна Крыч. *Здзікаіцца з хлыпца: тое ні так, тое ні етак, а ён ўсё сціпрпляіць.* Горкі Краснап.

ЗДО́БНІЧАК, -чка, *м.* Здобная булачка, пернік. *Матруна ўмея здобнічкі пячы.* Маластоўка Краснап.

ЗДО́БНЫЙ, *прым.* Здобны, здобраны. *Пірог здобны, з маслым, з яйкымі.* Трубільня Краснап.

ЗДО́БЫЧ, -ы, *ж.* Здабыча. *Здобыч нівялікыя: усяго дзьве плоткі ў нерыт улезла.* Палуж Краснап.

ЗДО́ГАД, -у, *м.* Здагад. *Я нічога пра ета ня ведыла, на здогад скызала, аж ікраз і пупала.* Мсціслаў.

ЗДО́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Здолець. *Еш болі, ато цібе кожны здоліць.* Старае Сяло Мсцісл.

ЗДО́ЛЬНЫЙ, *прым.* Здольны. *Здольны хлопіц, што ні возьмець, усё зьдзелыіць.* Маляцічы Крыч.

ЗДО́ЛЬНЫСЬЦЬ, -і. *ж.* Здольнасць. *У яго ёсьць здольнысьць, іначай ба ён ні пашоў так далёка.* Бяседавічы Хоцім. *Мой сын меіць вялікую здольнысьць ды работы.* Лешчынка Мсцісл.

ЗДОР, -у, *м.* Здор, сала з кішак. *Такога сала пуды тры ды здору хунтыў двaццыць пяць было з кабына.* Парадзіна Мсцісл. *З кыбына здору с пуд будзя.* Хвёдараўка Краснап.

ЗДО́РВА, *прысл.* Здорава. *Сьціпан здорва гарэлку хлешча.* Палуж Краснап.

ЗДО́РЫВА, *прысл.* Здорава. *Абцыганіў ён цябе здорыва з етай касою.* Мсціслаў.

ЗДО́СЬЦЬ, *прысл.* Задосыць [занадта], даволі з лішкам. *Здосьць будзіць сена на зіму.* Горкі Краснап.

ЗДО́ХЛЫЙ, *прым.* 1. Здохлы. *Глядзім, ажно валяецца кабан здохлый, а кругом*

*яго штук дзесяц сыбак.* Пірагова Мсцісл. 2. Хударлявы, слабасільны. *Ты ў нас здохлый, куды табе цігацца?* Брылёўка Краснап.

ЗДО́ХНУЦЬ, *дзеясл.* Здохнуць. *Наш сыбака прыбег увесь абкусаный, верна, здохніць.* Віхраны Мсцісл. *Бежынскій скот дужа кволый і холыду баіцца, і калі корым ні такей, дык глядзі што здохніць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗДРА́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Здрадзіць. *Ета ж такей бандзіт, што родныга бацьку здрадзіць.* Ушакі Чэрык.

ЗДРА́ДНІК, -а, *м.* Здраднік. *Ні дурі гылаву, здраднік, другіх падвёў і мяне хочыш?* Слаўнае Мсцісл.

ЗДРІГАНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Здрыгануцца. *Як стрэлілі з гырматы, дык аж зімля здріганулысь.* Серчыцы Краснап.

ЗДРО́ЧЫНЫЙ, *прым.* Звіты, скручаны. *А мыя ныгайка ш шоўку сплеціна, ‖ Ш шоўку сплеціна, з дрота здрочына.* З нар. песні.

ЗДРУЖЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Здружыцца. *Зь ім нільзя здружыцца, ён дужа ніпыкладлівый.* Арцёмаўка Міласл.

ЗДРЫ́ГЫНЬНЯ, -я, *н.* Здрыганне [дрыжыкі, дрыготка]. *Іна тріслась ат холыду, лежучы ны крываці, і ад яе здрыгыньня аж крываць скріпела.* Арцёмаўка Міласл. *Пакуль ні пірістаніць здрыгыньня, табе нада ліжаць у пасьцелі і цёпла ныкрывацца.* Бяседавічы Хоцім.

ЗДРЫ́ЖКА, -і, *ж.* Здрыганне [дрыжыкі, дрыготка]. *Аж здрыжка прыйшла па целі.* Хвёдараўка Краснап. *Ад чаго ў мяне сяньні тыкая здрыжка, што пряма зуб на зуб ні пупадзеш?* Бяседавічы Хоцім.

ЗДРЫ́ЖКІ, -аў, *мн. л.* [Дрыжыкі], дрыготка. *У сырую пагоду мяне часта кідаіць у здрыжкі.* Бяседавічы Хоцім.

ЗДРЫ́ЖНІК, -а, *м. бат.* Здрыжнік, канапелькі, божыя слёзкі. *На лузі здрыжнік расьце. Вецер павее—ён увесь задрыжыць.* Парадзіна Мсцісл. *Ны лагу сярод іншых траў расьцець многа здрыжніку.* Сохана Мсцісл.

ЗДРЫ́СЫВІЦА, -ы, *ж. бат.* Драсён. *Лі нашый речкі расьцець дужа быгата здрысывіцы.* Хвёдараўка Краснап.

ЗДРЭ́ХІЦЦА, *дзеясл.* Спалохацца. *Ні мала ня здрэхімшысь, сылдат — бац з ружжа ў немца.* Палуж Краснап.

ЗДУБЕ́ЛЫЙ, *прым.* Здубелы, здранцвелы. *Дзіцёнык здубелый, аж пасінеў ат холыду.* Лютня Краснап.

ЗДУБЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Здубець, здранцвець. *Холыд такій, што й кажушок ні пумыгаіць: здубеў насмерць, атагрецца ні магу.* Залачэўка Краснап.

ЗДУ́БІНЫ, -аў, *мн. л.* Здробненая кара (дубовая, лазовая ці інш.), што ўжываецца пры вырабе скуры; пасля вырабу скуры яе сушаць і даюць як корм скаціне. *Вазьмі мяшок і прынясі здубіны.* Тур'я Чэрык.

ЗДУРЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Здурнець. *Ад вашыга кріку, які бываіць у вас у вучылішчы, здурець можна.* Канічы Касцюк.

ЗДУРІ́ЦЬ, *дзеясл.* [Задурыць]. *Здуріў дзеўкі гылаву і пакінуў.* Горкі Краснап.

ЗДЫБЫВА́НЬНЯ, -я, *н.* Здабыванне. *Калі мы трохі 'ддыхнулі — зыняліся здыбываннем яды.* Пірагова Мсцісл.

ЗДЫВА́ЦЦА, *дзеясл.* Здавацца. *Аднакроць пашоў я ўночы ў горыд, ды, відна, быў я трохі пьян, бо мне пычалі здывацца ўсякыя нечысьць.* Мазалава Мсцісл.

ЗДЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Раздаваць, здаваць (пра карты). *Стусуваў калоду карт і пычаў здываць.* Парадзіна Мсцісл.

ЗДЫГА́ДЛІВЫЙ, *прым.* Здагадлівы. *Во мыладзец, які ты здыгадлівый, усё ўжо адгыдаў!* Пірагова Мсцісл.

ЗДЫГНА́ЦЬ, *дзеясл.* Дагнаць. *Пешыму конныга ні здыгнаць.* Палуж Краснап.

ЗДЫГЫДА́ЦЦА, *дзеясл.* Здагадацца. *Раменныя плётычка рыспліталыся, ‖ А я, мыладзенькыя, здыгыдалыся, ‖ У новую каморычку схывалыся.* З нар. песні.

ЗДЫЛІЗЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* З'есці, знішчыць. *Козы ўвырваліся ў сад, і ўсе прышчэпы як ёсьць здылізывалі.* Куркаўшчына Мсцісл.

ЗДЫМА́ЦЬ, *дзеясл.* Здымаць. *Здымай века з дзіжы, будзім хлеб сыджаць.* Ушакі Чэрык.

ЗДЫ́РДЫЦЬ, *дзеясл.* Сцягнуць [украсці]. *Увесь хлеб з двыра здырдыў.* Хвёдараўка Краснап.

ЗДЫХА́ЦЬ, *дзеясл.* Здыхаць. *Ці гусіняты, ці індыкі — мыладыя яны кволы: усё хвареюць ды здыхаюць.* Арцёмаўка Міласл. *Нейкыя пошасьць пышла, скаціна пачыла здыхаць.* Пірагова Мсцісл.

ЗДЫХЛЯ́ЦІНА, -ы, *ж.* 1. Здыхляціна, здыхліна. *Мне дужа пыгана глядзець ны ўсякыю здыхляціну.* Лешчынка Мсцісл. 2. Вельмі худы. *Што мне дзелыць зь етыю дзеўкыю сваёю? Тыкая здыхляціна, што косьці адны, і нічым яе ні ўкорміш.* Арцёмаўка Міласл.

ЗДЫ́ХАЦЬ, *дзеясл.* Расцягнуць, пусціць марна. *Усё, што было ў хаці, ён здыхыў.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЕ́ДЛІК, -а, *м.* Зэдлік. *Прымі з зедліка клубок з ніткамі ды сядзь.* Сапрынавічы Мсцісл.

ЗЕДЛЬ, -я, *м.* Зэдлік. *Садзіся вось на зедлі, чаго стаіш — ногі забыляць.* Лапаціна Мсцісл.

ЗЕ́ЛЬЛІКА, -а, *н.* Зеллейка. *Рві, дзеткі, зельліка ды кідай ны мяжу.* Горня Хоцім. *Зыгыдала Марычка зыгадку: ‖ Хто з-за мора зельліка дыстаніць, ‖ Той са мною на венчыку станіць.* З нар. песні.

ЗЕ́ЛЬЛЯ, -я, *н.* 1. Зелле, расліна. *Пасеялі збожжа, а вырысла зельля.* Бялішчына Мсцісл. *Нада нысыбіраць у маі месіцы ўсякыга зелля для лікарства.* Слаўнае Мсцісл. *Расьцець адно зельля.* Хвёдараўка Краснап. 2. Зелле, лякарства. *Яна дыла яму ат етыга нейкага зельля.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЕЛЯЗЬНІ́К, -а, *м.* 1. Жалязняк, рыдлёўка. *Прінясі мне зелязьнік, шула нада закыпаць.* Лапаціна Мсцісл. 2. Скрабло. *Зелязьнікам нада гразь вышкрыбсьці.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЕЛЯНУ́ХА, -і, *ж.* Зеляніна, што-небудзь недаспелае. *Яблыкі-зелянухі еў, вось і баліць жывот.* Асмолавічы Мсціс.

ЗЁМ, -у, *м.* 1. Пагнойная зямля, чарназём. *Нада ныбраць зёму ў вазоны.* Палуж Краснап. 2. Торф. *Нехта зыпаліў у балоці зём, і ён гарыць больш як месіц.* Куляшоўка Клім.

ЗЕМЛЯПА́ШЫЦ, -шца, *м.* Земляроб. *Мае бацькі пашуць зямлю — земляпашцы яны.* Сохана Мсцісл.

ЗЕМЛЯРО́Б, -а, *м.* Земляроб. *У анкеці напісана, што бацька земляроб, а які, ні сказына.* Мсціслаў.

ЗЕМЛЯРОБСТВА, -а, *н.* Земляробства. *Мой бацька займаецца земляробствам.* Сохана Мсцісл.

ЗЕ́НА, -ы, *ж.* Зрэнка. *Самую зену скалоў.* Турэйск Краснап.

ЗЕ́НКА, -і, *ж.* Зрэнка. *Іна плоха відзіць, у яе вачох на зенкых нейкыя пленкі, а 'дна зенка ў воку дык сусім белыя.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЕР, -а, *м.* 1. Зрок. *У яго зер прыпаў — нічога ня відзіць.* Беразякі Краснап. 2. Маленькая лямпачка, што паліцца без шкла, капцілка [газнічка]. *Зыпалі зер, ато сусім цёмна стала.* Асавец Крыч. *Матка запаліла зер.* Забалоцце Раснян.

ЗЕ́РА, -ы, *ж.* Агонь, святло. *Нешта ты ня паліш зеру.* Тур'я Чэрык.

ЗЕ́РНЯ, -ю, *н.* Зерня. *Зерня гароху зыкацілыся зы вакно і прырасло там, вунь гарошык ужо расьцецъ.* Залачова Мсцісл.

ЗЕ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Гарэць невялікім агнём. *Наша лампа чуць зеріць сяньня, верна, красіну мала налілі.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЕЎ, -а, *м.* Зеў, шчыліна паміж нітак, у якую праводзяць чаўнок пры тканні. *Зеў мал — чаўнок ня лезець.* Дрыбін. *Нешта ніты дужа дрэнна ходзюць, німа саўсім зеву, і чаўнок ні прылазіць.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЖА́РЫЦЬ, *дзеясл.* Спячы [сасмажыць]. *Мама, зжар мне сёньня шкрылёў.* Касцюковічы.

ЗЖУРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Пасварыцца, абсарамаціць. *Матка мяне зжурыла ўчора за ета.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЗА́ДЗІ, *прысл.* Ззаду. *Ны вайне ўсяк буваіць: буваіць такоя пылажэньня, кылі ззадзі речка — уцеч некуды, а немцы смалюць, што дзецца нейдзі.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЗА́ДУ, *прысл.* Ззаду. *Я паціхусеньку падыйшоў к ёй і схапіў ззаду.* Лешчынка Мсцісл.

ЗІВА́К, -а, *м.* Разява. *Ты зівак, нікога ня ўглёдзіш.* Хвёдараўка Краснап.

ЗІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Пазяхаць. *Прашнуўся і пычаў зіваць і пыцігацца, што аж у суставых хрусьцела.* Арцёмаўка Міласл.

ЗІЛІЗЬНЯК, -а, *м.* 1. Жалязняк, рыдлёўка. *Вазьмі новэй зілізьняк ды выкыпай яму.* Парадзіна Мсцісл. *Я сваю бульбу ўсю зілізьняком парыла, кыня ні ў кога ні брала.* Пірагова Мсцісл. 2. Жалязняк, руда жалезная. *Ля Сожу ёсьць зілізьняк, зь яго дзелылі раней зялеза.* Віхраны Мсцісл. *У гырах дыбываюць зілізьняк, з якога дзелыюць зялезныя вешчы.* Слаўнае Мсцісл.

ЗІЛЯЗЬНІ́К, -а, *м.* Жалязняк, рыдлёўка. *Прінясі мне зілязьнік, прікыпаць рыўчак нада.* Новае Сяло Мсцісл. *Ён узяў зілязьнік і пашоў кынаву кыла буртаў кыпаць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗІЛЯНЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Зелянець. *Пылянь, як пырнік зілянеіць, усіроўна, як рунь увосінь.* Ушакі Чэрык.

ЗІЛЯНУ́ХА, -і, *ж.* Зеляніна, недаспелае што-небудзь. *Адной зілянухі наеўсь.* Хвёдараўка Краснап.

ЗІЛЯНЦЫ́, -оў, *мн. л.* Зеляныкі [каноплі з пыльнікамі, плоскуні]. *Падсоб браць зілянцы, толькі кынапель ня трі, ціха.* Бяседавічы Хоцім.

ЗІЛЯНЬКІ́, -оў, *мн. л.* Зеляныкі [каноплі з пыльнікамі, плоскуні]. *Ты, малы, выбірай зіляныкі.* Залесавічы Крыч.

ЗІМА́, -ы, *ж.* Зіма. *Нада абуцьця гатовіць — скора зіма будзіць.* Каробчына Мсцісл. *Трэба ныз ыпасывыцца к зіме ягыдымі, грібамі.* Палуж Краснап.

ЗІМАВІ́ШЧА, -а, *н.* Сабранае ўзімку і аттопленае малако. *Будзім есьць зімавішча.* Хвёдараўка Краснап.

ЗІМЛЯ́, -і, *ж.* Зямля. *Як падсохніць вясною зімля, на полі пачынаецца пахыта.* Сохана Мсцісл. *Ніправільныя тваё меркываньня — зямлі ўсім ня хопіць.* Слаўнае Мсцісл. *Зімля наша запустувала.* Палуж Краснап.

ЗІМЛЯМЕ́Р, -а, *м.* Каморнік [землямер]. *Зімлямер сяньні павінін ахапіць усё наша поля.* Слаўнае Мсцісл.

ЗІМЛЯ́НКА, -і, *ж.* Зямлянка, дубовая палка ў сасе, што служыць апораю для ўсіх звязак сахі. *Раблю зімлянку ды сахі, трэба араць скора.* Брылёўка Краснап.

ЗІМЛЯРО́Б, -а, *м.* Земляроб. *Мой бацька быў зімляроб і дзед тож.* Пірагова Мсцісл.

ЗІ́МНІЙ, *прым.* Зімовы. *Нада змалоць, пакуль зімнія дарога стаіць, ато як распусьціць, дык ня выедзеш.* Касцюшкавічы Крыч.

ЗІМНІ́ЦА, -ы, *ж.* Сабранае ўзімку і адтопленае малако. *Дай хіба трохі зімніцы зьем.* Бялішчына Мсцісл.

ЗІМО́Й, *прысл.* Узімку. *Зімой у пратоплінай хаце аттаюць вокны.* Бяседавічы Хоцім. *Зімою зы сьнягою, а вясною зы вадою ні дыбярэсься ды вас.* Нова-Ельня Краснап.

ЗІМУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Зімаваць. *Вісна, дзе бувала? ‖ У лесі зімувала.* З нар. песні.

ЗІПУ́Н, -а, *м.* Верхняя адзежына. *Ныпряні зіпун, бо каб халодна ні было.* Юр'евічы Калінінічшчына. *Рібяты ўсе ў зіпунах.* Гусарка Клім.

ЗІРНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Зірнуць, глянуць. *А мне і ніўдамёк було зірнуць на коні.* Добрае Мсцісл. *Іду я, дык нехта пыкызаўся з-зы вугла, зірнуў ны мяне і апяць схуваўся. Чаго ён глядзеў — ні знаю.* Арцёмаўка Міласл. *Зірні, якое чыстае неба!* Вярбоўка Раснян.

ЗІ́РКІЙ, *прым.* Зіркасты. *Зірькыя дзеўка: вочы круглыя, бальшэя.* Палуж Краснап.

ЗІ́РКЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Зіркатасць. *Вуллян сам зірькій і сынам пірідаў зірькысьць:*

*уся сімья ў іх зірькія.* Хвёдараўка Краснап.

ЗКАЛАНДЫ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Зрабіць, пашыць. *Дзяўчына сяк-так зкаландырыла хвартух.* Крычаў.

ЗЛАБІ́ЦІЛКА, -і, *ж.* Злосніца, што жадае зла. *Мамычка ж мыя, радзіцілка, ‖ А й ня ёсьць ты мне радзіцілка, ‖ А й есьць жа ты мне злабіцілка.* З нар. песні.

ЗЛАБІ́ЦІЛЬ, -я, *м.* Злоснік, што жадае зла. *Ета ж настыяшчый злабіціль, ён нікому дыбра ні пажылаіць.* Маляцічы Крыч.

ЗЛАВІ́ЦЬ, *дзеясл.* Злавіць. *Сыбакі злавілі труса, думалі, што заіц.* Ушакі Чэрык. *Хацеў злавіць віріб'я, ды ні пасьпеў схапіць яго ў гнязьдзе — пылящеў.* Лешчынка Мсцісл.

ЗЛАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Зладзіць, зрабіць. *Сяк-так і вясельля зладзілі.* Палуж Краснап. 2. Згаварыцца. *Цімох зладзіў з купцом.* Палуж Краснап.

ЗЛАЖЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Злажыцца, нацэліцца. *Сылдат злажыўсь з ружжа стрыляць.* Палуж Краснап.

ЗЛАЖЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Скласці. *Злажыў ён сваю гылаву ны чужой стыране.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЛАЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Злазіць. *Злазій с печы.* Палуж Краснап. *Злазь-ка на вышкі, пыглядзі, ці ні нада там моху прібавіць ці пяску, ато ўзімку холадна будзіць у хаці.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЛАМІ́ЦЦА, *дзеясл.* Зламацца. *Ад цяжбы возу дуга зламілыся.* Бязводзічы Мсцісл.

ЗЛАМІ́ЦЬ, *дзеясл.* Зламаць. *Учора, круціўшы дзіркі, Цімох тоўсты сьвердзіл зламіў.* Добрае Мсцісл.

ЗЛАЎЛІВАЦЬ, *дзеясл.* Збіраць зверху [вылоўліваць]. *Злаўлівыя жырок зь міскі, а капусты ня хочыць.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЛАЎРЭ́ДНІК, -а, *м.* Шкоднік. *Злаўрэднік ты, нашто ты авёс топчыш?* Хвёдараўка Краснап.

ЗЛАЎРЭ́ДНЫ, *прым.* Шкодны, ліхі, нядобры. *Іна тыкая злаўрэдныя, што гляніць на што-нібудзь, дык абізаціліна зь ім штонібудзь зьдзеіцца.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЛАЧЫ́НІЦ, -нца, *м.* Злачынец. *Максім — такій злачыніц, што ўсякыю подлысьць можыць зьдзелыць.* Палуж Краснап.

ЗЛАЧЫ́НСТВА, -а, *н.* Злачынства. *Датуль служыў, пакуль не прагналі за розныя злачынства.* Сохана Мсцісл. *Ой, якоя злачынства ён зрабіў: забіў родныга бацьку!* Ушакі Чэрык.

ЗЛАЧЫ́НЬНІЦА, -і, *ж.* Злачынка. *Ох і Верька, злачыньніца тыкая, што ні прівядзі бог: дзе ні пувірнецца — усюдых 'т яе плачуць.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЛА́ШЧА, *прысл.* Тым больш, добра калі. *Гарэлка шкодзіць і здароўю, а злашча хвыравітым людзям.* Сохана Мсцісл. *А злашча як твае йшчэ коні дыбягуць.* Хвёдараўка Краснап. *Яму злашча, калі ён такій здаровый.* Кокатава Мсцісл.

ЗЛЁЗЬЦЬ, *дзеясл.* Злезці. *Дзед злез з печы і сеў ны запечку.* Смолькаўская Буда Бялынкаў.

ЗЛІГЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Злягчаць [скастрыраваць]. *Мы злігчалі свайго маркыча.* Крычаў.

ЗЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Злавацца. *Злісься, німазныч чаго.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЛІ́ЧНА, *прысл.* Прыгожа. *Ганнычка, як ты сёньні злічна выглідаіш, як кветка вісной.* Ушакі Чэрык.

ЗЛІ́ШКУ, *прысл.* Залішне. *Я злішку йому зыплаціў, нада було путургуваціа.* Палуж Краснап.

ЗЛО, -а, *н.* Зло. *Людзі ад завідысьці часта адзін аднаму зло творуць.* Сохана Мсцісл. *Я ні разу ны яго мшчэньня ня меў, хоць ён мне зло зьдзелыў.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЛО́ДЗІЙ, -я, *м.* Злодзей. *Злодзій у клецьь залез, але ні пасьпеў нічога ўкрасьць — пачулі.* Бялішчына Мсцісл. *Наканец злавілі злодзія.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Чылавек на кірмашы ўліцкываў злодзія.* Самацевічы Касцюк.

ЗЛО́ЖАНЫЙ, *прым.* Зложаны, складзены. *Салома зложана ў засецьце.* Машавая Бялынкаў.

ЗЛОМ, -у, *м.* Буралом, зламанае ветрам дрэва. *У лесі многа злому пысьля етый буры, што была.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЛО́МЫНЫЙ, *прым.* Зламаны. *Зломыныю касу нада спыяць, дык яшчэ гады два будзіць касіць луччы, як новыя.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЛО́СЬНІК, -а, *м.* Злоснік, чалавек, што чыніць зло. *Злосьнік ты, Янка, на зло ўсё дзелыіш.* Юравічы Клім. *Во злосьнік пашоў, што летысь пыдпаліў гумно Максімыва.* Лешчынка Мсцісл.

ЗЛО́СЬЦЬ, -і, *ж.* Злосць. *У злосьці пасварыліся і пабіліся, а серца атыйшло — зноў памірыліся.* Сохана Мсцісл. *Ат злосьці ён, выходзячы, дзьвярьмі хляпнуў, што аж вокны зазьвінелі.* Палуж Краснап.

ЗЛОТ, -а, *м.* Залатоўка (манета вартасцю ў пятнаццаць капеек). *На злот купіў махры і на тры капейкі папяры.* Палуж Краснап.

ЗЛО́ТКА, -і, *ж.* Залатоўка. *Пазыч мне злотку, красіну купіць нада.* Кокатава Мсцісл.

ЗЛУБЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Злубець, зрабіцца цвёрдым, як луб. *Пырцянкі ат поту і гразі ў луб злубелі.* Парадзіна Мсцісл.

ЗЛУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Злаваць. *Ны каго ж ты злуіш, хто табе вінуват у етым?* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ЗЛУМА́ЦЬ, *дзеясл.* Зламаць. *Ны дваре аблій, страшна хадзіць, можна пасьлізнуцца і нагу злумаць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЛУЧАЦЬ, *дзеясл.* Злучаць. *Ні нада нашых авец злучаць з тым стадым, ато посьлі ні разьлічыш, чые каторыя.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЛУЧЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Здарыцца. *Ніспакойна нешта ў мяне на душы: усё думаіцца, каб с Трыфоным чаго ні злучылыся.* Добрае Мсцісл.

ЗЛУЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Злучыць. *Нада з-пыд абеіх квакух цыплят злучыць умесьці і пусьціць пыд адну квакуху.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЛУЧЭ́НЬНЯ, -ія, *н.* Злучэнне, мешаніна. *Ета авёс ні аднаго сорту, тут нешта*

*злучэньня двух сартоў, верна, нарошня зьмішалі.* Арцёмаўка Міласл. *Капыл служыць для злучэньня полаза з памарзьняй.* Дрыбін.

ЗЛЫЙ, *прым.* Злы, нядобры. *Злыя людзі спуцілі майго хлыпца.* Палуж Краснап. *Яго аж пакарыбаціла ат тваіх злых слоў.* Ушакі Чэрык.

ЗЛЫБÁ, -ы, *ж.* Злаба, сварка [і нянавісць]. *Паміж імі дайно злыба: адзін аднаго зьесьць гатовы.* Сохана Мсцісл.

ЗЛЫ́ДНІ, -яў, *мн. л.* Недахваткі, бядота. *Улезуць злыдні на тры дні, дык і за год ня выганіш.* Прыказка. Мсціслаў.

ЗЛЫ́ДНІК, -а, *м.* Бедны чалавек, у якога заўсёды недахваткі. *Гэты злыднік чуць трымаецца.* Людагошч Мсцісл.

ЗЛЫ́ДНЯ, -і, *ж.* 1. Беднасць, бядота, недахваткі. *У нашай вёсцы жывець злыдня, ні днаго тумыря німа.* Чыгрынаўка Раснян. 2. Скупы чалавек, які жыве бедна, хоць і мае. *Такі злыдня — і ёсьць за што купіць, а ў трантых ходзіць.* Парадзіна Мсцісл.

ЗЛЫ́ДЫР, -а, *м.* Бедны чалавек. *У злыдыря нічога німа.* Шумячы.

ЗЛЫКЫМÁН, -а, *м.* Вораг, чалавек, што жадае зла другому. *Мае злыкыманы рады, што біда прышла.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЛЫМÁНЫЙ, *прым.* Зламаны. *У нашыга кыня ныга злымана, таму ён і хрымаіць.* Канічы Касцюк.

ЗЛЫМÁЦЦА, *дзеясл.* Зламацца. *Трыйня ў калёсых ніколі ні злымаіцца.* Бяседавічы Хоцім. *Сьлігавіна злымалыся, і стрыха забурылыся.* Мсціслаў.

ЗЛЫМÁЦЬ, *дзеясл.* Зламаць. *Конь папудзіўсь і злымаў калёсы.* Хвёдараўка Краснап. *Я злымаў летысь нагу і з таго часу пычаў калдыбаць.* Лешчынка Мсцісл.

ЗМАГÁ, -і, *ж.* Сіла, змога. *Ікая змага, такая й бега.* Гібалы Касцюк. *Няма мне, дзетычка, змагі.* Маркаўка Хоцім.

ЗМАЙСТРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Змайстраваць, зрабіць. *Добры майстар: змайстрыў вулей, дык крысыта!* Добрае Мсцісл.

ЗМАЛАЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Змалаціць. *Вам лацьвей асець змалаціць, як у вас пяць чалавек.* Куркаўшчына Мсцісл. *Вы змалацілі сваё жыта? Змалацілі.* Чыгрынаўка Раснян.

ЗМÁЛКУ, *прысл.* Змалку, з малых год. *Агультаіўся змалку і цяпер ня можыць узяцца за дзела.* Лешчынка Мсцісл.

ЗМАРІ́ЦЦА, *дзеясл.* Змарыцца, стаміцца. *Ой, як я змарілыся сёньня, проста ледзь ногі цігаю!* Маляцічы Крыч. *Кабыла змарілысь, ні вязець.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ЗМАРНЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Змарнець, абяссілець. *Змарнела, ўсё роўна як тры дні хлеба ня ела.* Сохана Мсцісл.

ЗМАРО́ЗІЦЬ, *дзеясл.* Змарозіць. *У вязёнкых ні змарозіш рук.* Кокатава Мсцісл.

ЗМАТÁЦЬ, *дзеясл.* Зматаць. *Змытай ніткі ў маток.* Забалоцце Раснян.

ЗМАХНУ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Змахнуць, сцерці. *Змахні пыл з лаўкі, ніхай чылавек сядзіць!* Вітрунь Касцюк. 2. Скасіць. *Сяньня мы пыкашывалі шалёна — змахнулі колькі!* Добрае Мсцісл.

ЗМЕ́НЬЛІВЫЙ, *прым.* Зменлівы. *Пагода ў етым месіцу зьменьлівыя: то ясна, то дажджліва.* Маластоўка Краснап.

ЗМЕ́СНЫЙ, *прым.* [Змяшчальны], змесны. *Етый мяшок змесный: у яго шэсьць пудоў уваходзіць.* Палуж Краснап.

ЗМІШЧÁЛЬНЫЙ, *прым.* Змяшчальны, змесны. *Бачонык нівялік, а змішчальный: сорік літріў у ім.* Лютня Краснап.

ЗМО́ВА, -ы, *ж.* Змова. *Змова паміж імі ёсьць, няйначай, абмішулівыюць людзей.* Паўлавічы Клім.

ЗМО́ВІЦЬ, *дзеясл.* Сказаць. *А што, хмелю, змовіш ‖ Свайму півывару?* З нар. песні.

ЗМО́ГА, -і, *ж.* 1. Мажлівасць. *Каб была ікая-небудзь змога, дык бы паехыла вучыцца.* Слаўнае Мсцісл. 2. Сіла. *Яму ня ў змогу пыдняць аднаму, пымагі яму!* Арцёмаўка Міласл.

ЗМО́КЛЫЙ, *прым.* Змочаны, прамоклы. *Скарэй надзівай сухую бялізну, ты ж саўсім змоклы, да ніткі!* Ушакі Чэрык.

ЗМО́ЎКНУЦЬ, *дзеясл.* Змоўкнуць. *Змоўкні плакаць!* Забелышана Хоцім. *Змоўкні, ато як юрну пугай, дык аж паскочыш!* Кокатава Мсцісл.

ЗМУЗДÁЦЬ, *дзеясл.* Выцяць, ударыць. *Як змуздаў я його, дык ён аж яхнуў.* Хвёдараўка Краснап.

ЗМУ́СТА, -ы, *ж.* Чалавек, што зманьвае, зводзіць; змусціціль. *Як явіўся етый змуста, дык ізноў сыбраліcь кыла яго лодырі і крічаць, штоб зыбастоўку дзелыць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗМУСЬЦІ́ЦІЛЬ, -я, *м.* Чалавек, што зманьвае [зводзіць]. *Змусьціціль ты, Фёдыр, майго хлыпца зьвёў: у дваре ня хочыць і часу быць.* Канічы Касцюк. *На дзевык ён первый зьмусьціціль.* Хвёдараўка Краснап.

ЗМЫЛАЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Змалаціць. *Змылацілі пяць вазоў жыта і на веілку зярно піравеілі.* Сохана Мсцісл.

ЗМЫТÁЦЦА, *дзеясл.* 1. Выматацца, замарыцца, стаміцца. *Ета дужа цяжкыя работа. На етый рабоці можна так змытацца, што зы два дні ні ачухыісься.* Арцёмаўка Міласл. 2. Распусціць грошы. *Змытаўсь ды капейкі, і ны абед ні зысталося.* Хвёдараўка Краснап.

ЗМЫТÁЦЬ, *дзеясл.* 1. Зматаць. *Змытай на клубняк лыкі!* Баеўка Крыч. *Змытай шпульку нітак ны мытавіла.* Бялішчына Мсцісл. 2. Страціць. *Усю маімысьць змытаў, а дальшы што, як жыць будзіш?* Маластоўка Краснап.

ЗМЫЎЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Змаўляцца. *Дзямід з Яўменым змыўляюцца ехыць у Сібірь.* Палуж Краснап.

ЗМЯСЬЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Змясціць. *А мы ўсё ета змясьцім у адзін чымыйдан?* Краснаполле.

ЗНÁДЫБІЦЦА, *дзеясл.* Спатрэбіцца, прыдацца. *Гэта табе знадыбіцца ўдварэ.* Бабынічы Мсцісл. *Ета мне йшчэ знадабіцца.* Бардзіч Краснап.

ЗНÁДЫБНЫЙ, *прым.* Патрэбны, прыдатны. *Ні кідай вярёўку абы йдзе, іна знадыбна будзе.* Палуж Краснап.

ЗНАЕ́МСТВА, -а, *н.* Знаёмства. *У яго ўсюдых бальшоя знаёмства.* Сохана Мсцісл.

ЗНАЁМЫЙ, *прым.* Знаёмы. *Калі я пажыдала ехыць у горыд ны зарабыткі, то знаёмыя пычалі атраівыць мяне.* Нашкавічы Мсцісл.

ЗНАЙКА, -і, *ж.* Знаўца, чалавек, што ўсё ведае. *Яна ў нас тыкая знайка, што ні спрасі — усё знаіць.* Бяседавічы Хоцім.

ЗНАЙМЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Спавядацца, быць у споведзі. *Заўтрі пайду знаймывыцца.* Цівецкая Краснап.

ЗНАЙСЬЦІ, *дзеясл.* Знайсці. *Знайдзі пук дзягылны, і зь яго зробім сікыўку.* Хвёдараўка Краснап. *А й весь рядочык абыйшла,* || *Нідзе татухны ні знайшла.* З нар. песні.

ЗНАЙЦІ, *дзеясл.* Знайсці, адшукаць. *Атчаіў я саўсім знайці свайго каня!* Пірагова Мсцісл.

ЗНАЙЦІСЬ, *дзеясл.* Знайсціся. *Падумаеш, заступнік знайшоўсь!* Пірагова Мсцісл. *Нейкі пахісьціцель знайшоўсь, я клаў тут тапор, і ўжо німа.* Хвёдараўка Краснап. *Дабродзі знайшоўсь чужым добрым пымыгаць.* Жалезніца Крыч.

ЗНАК, -а, *м.* Адзнака [прыкмета]. *У яго ўсі знакі таго, што ён хварэіць нідобрай хваробай.* Ушакі Чэрык.

ЗНАКОМА, *прысл.* Знаёма. *Усё ета нам знакома, скажы новыя што.* Лютня Краснап.

ЗНАКОМЕЦ, -мца, *м.* Знаёмец. *Пынясьлі ета маго знакомца хыраніць.* Беразяк Краснап. *Сустрэў сваіх знакомцыў.* Сохана Мсцісл.

ЗНАКОМІЦЦА, *дзеясл.* Знаёміцца. *Іна і знакоміцца ні хацела з такім бысяком, ня толькі хадзіць з ім ці гывáрiць.* Арцёмаўка Міласл. *Бываючы ў людзях, часта пріходзіцца знакоміцца с харошымі і плахімі людзьмі.* Бяседавічы Хоцім.

ЗНАКОМЫЙ, *прым.* Знаёмы. *Ён мне нібыццам знакомый.* Кокатава Мсцісл. *Знакома мне ета места, я ўжо тут разоў дваццыць быў.* Бяседавічы Хоцім.

ЗНАЛОПУ, *прысл.* Знянацку, знячэйку. *Адкуль ета ты пыявіўся так зналопу, што ніхто і ні заўважыў.* Кокатава Мсцісл.

ЗНАМЯНІТАСЬЦЬ, -і, *ж.* Знакамітасць, вядомасць. *Падумаеш, якая знамянітасьць, ваша благародзія!* Сохана Мсцісл.

ЗНАМЯНІТЫЙ, *прым.* Знакаміты, вядомы ўсім. *Наш доктар знамяніты́й: яго ўсі знаюць, едуць к яму лячыцца здалека.* Сохана Мсцісл.

ЗНАНАЦКУ, *прысл.* Знянацку. *Сьцеражыся етыга сыбакі, ён знанацку кідаецца на людзей і кусаіць.* Новы Дзедзін Міласл.

ЗНАСІЛІЦЬ, *дзеясл.* Згвалціць. *Ён і хацеў, ды ні ўдалось яму знасіліць дзяўчыну.* Бяседавічы Хоцім.

ЗНАСІЦЦА, *дзеясл.* Знасіцца. *Сьвітка мыя ўжо знасілась саўсім, а новай німа.* Хоцімск.

ЗНАСІЦЬ, *дзеясл.* 1. Знасіць (пра адзежу). *Сваю саціныввію кохту я ўжу знасіла.* Арцёмаўка Міласл. 2. Зносіць, цярпець. *Гэта ж нада мець цярплівысьць, каб знасіць такую ругынь.* Лешчынка Мсцісл. *Усё, што яны мне гуварілі і дзелылі, я спакойна знасіў і нікаму ні жаліўся, а далі ета знасіць я ні магу і ні хачу!* Бяседавічы Хоцім.

ЗНАТНА, *прысл.* Заметна [прыкметна]. *Ну, брат, ты знатна пыхудзеў, проці таго, як быў вясною такім красным, тоўстым.* Бяседавічы Хоцім.

ЗНАТОК, -тка, *м.* Знаўца. *Аўдакім — знаток свайго дзела.* Залачэўка Краснап.

ЗНАХОДЖЫНЬНЯ, -я, *н.* Знаходжанне. *Бытата гаворяць пры знаходжыньня скарбаў, а хто іх бачыў?* Лютня Краснап.

ЗНАХОДЗІЦЦА, *дзеясл.* Знаходзіцца, быць. *Лячэбны пункт знаходзіцца за дваццаць вёрст ад нас.* Бяседавічы Хоцім.

ЗНАЦЦА, *дзеясл.* Знацца, весці знаёмства, быць знаёмым з кім-небудзь. *Ты ўжо, Ігнат, рызбыгацеў, дык і знацца ня хочыш.* Добрае Мсцісл. *Я с табою не хачу знацца.* Гібалы Касцюк.

ЗНАЦЬ, *дзеясл.* 1. Знаць, ведаць. *Ён такей законьнік, што ўсе законы знаіць.* Арцёмаўка Міласл. *Я цябе і знаць ні хачу, калі ты такей разбойнік.* Ушакі Чэрык. 2. Пэўна, відаць. *Знаць, ты, Янка, жаніцца сыбіраішся, што хрэнч сабе такей пашыў.* Бяседавічы Хоцім. *Знаць, добра яму жывецца, лядзі як адбудуваўсь.* Бардзіч Краснап.

ЗНАЦЬЦЁ, -я, *н.* Веданне. *Каб знацьцё, ня йшоў бы туды.* Хвёдараўка Краснап.

ЗНАЧНА, *прысл.* Значна. *У рэчцы выда ўжо значна спала.* Сохана Мсцісл.

ЗНАЧЫЦЦА, *дзеясл.* Значыцца, значыць. *З сымувара пара йдзе — значыцца, закіпеў.* Старае Сяло Мсцісл.

ЗНАЧЫЦЬ, *дзеясл.* Значыць, значыцца. *Вось і грак прыляцеў, значыць, вясна скора.* Лешчынка Мсцісл.

ЗНАЧЭНЬНЯ, -я, *н.* Значэнне. *Для бедніка кожныя капейка маіць сваё значэньня. Радзіо маіць бальшоя значэньня ў культурным жыцці людзей.* Сохана Мсцісл.

ЗНЕСЬЦЬ, *дзеясл.* Знесці (вадою), змыць. *Вялікыя выда ны ряке знісла човін.* Вярбоўка Расням.

ЗНІЖЫЦЬ, *дзеясл.* Зменшыць [знізіць]. *Я троху пытургуваўсь, дык ён, праўда, зьніжыў цану, ну толькі ета цына ны такога кыня дужа высокыя.* Арцёмаўка Міласл.

ЗНІЗ, -у, *м.* Апранутыя адна на адну вопраткі. *Ны нашлег ехыць, нада пад зніз надзець тулуп і армяк.* Гарманава Мсцісл.

ЗНІЗІЦЬ, *дзеясл.* Знізіць, прыгнуць, нагнуць. *На етый веткі бытата вішынь, пумажы нам знізіць яе.* Горкі Краснап.

ЗНІПАКОІНЫЙ, *прым.* Занепакоены, устрывожаны. *Нешта доўга німа нашых з лесу, я зніпакоіна, быдай чаго ні случылысь.* Хвёдараўка Краснап.

ЗНІТЫВАЦЬ, *дзеясл.* Знітаваць. *Ільля ні можыць піць: выпіў дзьве чаркі і знітываў.* Б. Хутары Краснап.

ЗНІЦЕЙКУ, *прысл.* Знянацку, нечакана. *Ні крычы зніцейку — перапужаеш!* Аршаншчына.

ЗНОЙДЫШ, -а, *м.* Знайдыш [знайдзён], знойдзены. *Глядзі, якей знойдыш стаў, а як найшлі яго ў крапіве, дык ніхто ні хацеў браць.* Бяседавічы Хоцім.

ЗНОСЫ, -ыў, *мн. л.* Даношванне [апошнія дні цяжарнасці]. *Астапыва баба на зносых, скора радзіць будзіць.* Маластоўка Краснап.

ЗНОСЬЛІВЫЙ, *прым.* Моцны [ноcкі], што доўга носіцца (пра адзенне). *Ета шап-*

*ка зносьліва: ужо шастэй год я яе нашу, а ўсё яшчэ крепка.* Бяседавічы Хоцім.

ЗНОЎ, *прысл.* Зноў, нанава. *Вунь там стаіць мой леташній ныймач, ён сёліта зноў хочыць мяне нынять.* Пірагова Мсцісл. *Ён мне зыпыяў два вядры, і січас жа прішлось піріпыяць зноў, пытаму што яны ні пірісталі цеч.* Бяседавічы Хоцім.

ЗНУСТА, -ы, *ж.* Звод [звадыяш]. *Знуста, зьвеў дзяцей пабіцца!* Людагошч Мсцісл.

ЗНУТРЫ, *прысл.* У сярэдзіне. *Хату знутры пубялілі.* Палуж Краснап.

ЗНЫХАДЗІЦЦА, *дзеясл.* Знаходзіцца. *Дзе іна будзіць жыць, дзе будзіць знызадзіцца, пакуль вырысьціць, біз маткі, біз бацькі — ні знаю.* Арцёмаўка Міласл. *Рыспырядніца ў хаці знийшлась.* Хвёдараўка Краснап.

ЗНЯСЬЦІ, *дзеясл.* Знесці. *Цыц, дзетка, ні плач, січас курычка кока знясець, дык я табе аддам.* Арцёмаўка Міласл.

ЗОБ, -а, *м.* Валлё, валляк. *Цыбулька, як зоб, ‖ Сьлёзычкі, як боб.* З нар. песні.

ЗОЛКА, *прысл.* Золка. *Ны дварэ дужа золка.* Маластоўка Краснап.

ЗОЛКІЙ, *прым.* Золкі. *Вечыр нейкі золкій, халодна стыяць.* Бардзіч Краснап.

ЗОЛЫТА, -а, *н.* Золата. *Блішчыць, як золата.* Іванаўка Хоцім. *Етый персьцінь падуты золытым.* Хвёдараўка Краснап.

ЗОРНА, *прысл.* Зорна. *Сёньня ўночы зорна — пыд ранкі мароз будзіць.* Горня Хоцім.

ЗОРНЫЙ, *прым.* Зорны. *Дзіўна ясныя, зорныя ночы асеньнія.* Сохана Мсцісл.

ЗОРЬКА, -і, *ж.* 1. Зорка. *Па небі зорька пыкаціліся.* Вярбоўка Расням. *Пірябoрнічык месічык ‖ Пірібіраіць зорькымі.* З нар. песні, М. Г. 22. *Ужо зоркі на небе пыкызаліся.* Сохана Мсцісл. *Зорька ярка гарыць у небі.* Маластоўка Краснап. 2. Зара, досвітак. *Раньнія птушка — жаўрынык: чуць толькі на зорьку пачнець падымацца, ён ужо зыпяець.* Пірагова Мсцісл.

ЗПАЗЬНІЦЦА, *дзеясл.* Спазніцца. *Прыпусьцім шагу троху, ноўды каб ні зпазьніцца нам на суд.* Добрае Мсцісл.

ЗРАБІЦЦА, *дзеясл.* Зрабіцца. *Ён гыварыў такім салодкім голысам, што аж прыкра зрабілась.* Ушакі Чэрык. *Хутка пысьля сьмерці ён зрабіўся адубелым.* Каробчына Мсцісл. *Сёліта кыля рэчкі зрабілася абсова.* Ключ Чавус.

ЗРАБІЦЬ, *дзеясл.* Зрабіць. *Прыхаметнік усё можыць зрабіць, усякыга чылавека можыць зачаруваць і загубіць.* Барысавічы Клім. *Зрабілі яны к хаці нейкая прыбудуваньня, і вышла ў іх хата на дзьве пылавіны.* Ушакі Чэрык. *Усё зраблю, што ат мяне залежыць.* Сохана Мсцісл.

ЗРАБОТЫЦЬ, *дзеясл.* Зрабіць. *Апока етый, нічога ні зработыя.* Хвёдараўка Краснап.

ЗРАДА, -ы, *ж.* Здрада. *Ета ж зрада: даверілі яму абарону, а ён вінуваціць пычаў.* Палуж Краснап.

ЗРАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Здрадзіць. *Ня думуў я, штоб ён мое зрадзіць. Ета ж нада — згыварілісь умесьці іціць, я яго тут дыжыдаю, а ён пашоў сабе сам!* Арцёмаўка Міласл.

ЗРАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Зарадзіць, урадзіць. *Сёліта авёс добра зрадзіў.* Каробчына Мсцісл. *Дрямліва поля, дрямліва ‖Сілныя ягыдкі зрадзіла.* З нар. песні.

ЗРАДНІК, -а, *м.* Здраднік. *Зраднік ты, хрістапрадаўца!* Слаўнае Мсцісл.

ЗРАДНІЦА, -ы, *ж.* Здрадніца. *А зрадніца нявестка, ‖ А зрадзіла залоўку: ‖ Хадзі, залоўка, у клетку спаць.* З нар. песні.

ЗРАЗУ, *прысл.* 1. Адразу. *Я зразу ўбачыў, што ён жулік.* Палуж Краснап. *Карчы смольныя, палкія: пыднясі сьпічку, дык зразу ўспыхнуць.* Горня Хоцім. *Мне сяньчіны тылаку прыехыла трыццаць падвод, дык мы зразу ўсю хату зыбралі.* Бяседавічы Хоцім. *Хведзька як махнуў шыбінай у яблынку, дык зразу дзесяць яблык зьбіў.* Кокатава Мсцісл. 2. Спачатку. *Я зразу ні хацеў етыга рабіць, але пысьля раздумуўсь.* Палуж Краснап.

ЗРАЗУМЕЦЬ, *дзеясл.* Зразумець. *Нейкі асталоп ету аб'яву напісаў — нічога ні зразумець!* Пірагова Мсцісл.

ЗРАНДЫВАЦЬ, *дзеясл.* Заарандаваць, узяць у арэнду. *Сыны Вертліба зрандывалі трубілінскі сад.* Маластоўка Краснап.

ЗРАНКУ, *прысл.* Зранку. *Касілі зранку ды абеду, а ныкасілі воз які сена.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ЗРАНЬНЯ, *прысл.* Зранку, раніцою. *Сірянком зраньня можна ехыць.* Палуж Краснап.

ЗРАСХОДУВАЦЬ, *дзеясл.* Патраціць. *Ты зьвярні мне тоя, што я ны цябе зрасходуваў.* Пірагова Мсцісл.

ЗРОБЛЕНЫЙ, *прым.* Зроблены. *Для вакон і дзьвярэй зроблены новыя луткі.* Машавая Бялынкав. *У гаросе ад вераб'ёў зроблена пужала.* Лапаціна Мсцісл.

ЗРОДУ, *прысл.* Зроду, з даўніх часоў, ніколі. *Зроду радоў ні бачылі такога ліхалецьця.* Маластоўка Краснап. *Баба зроду такога дзіва ні бачыла.* Палуж Краснап.

ЗРУБІЦЬ, *дзеясл.* Зрубіць [паставіць зруб], зрабіць сцены ў будынку. *Плотнікі за дзень зрубілі два вянцы.* Касцюковічы. *Ён ужо падруб зрубіў.* Хвёдараўка Краснап.

ЗРУБЫНЫЙ, *прым.* Зрублены. *Сырайчык ужу быў зрубыный, толькі яшчэ ні пыстаўлін на месца.* Арцёмаўка Міласл.

ЗРУГА, -і, *ж.* Здзек. *Ета ж зруга над хлопцым, каб так яго біць.* Слаўнае Мсцісл.

ЗРУГАЦІЛЬСТВА, -а, *н.* Здзек. *Нашто такоя зругацільства пастух дзелыіць над статкым: загоніць на голыя места і дзяржыць там целый дзень.* Слаўнае Мсцісл.

ЗРУЧНІК, -а, *м.* Ручайка, поўнае верацяно пражы. *Досьвіту мама зручнік ныпряла, а тады ўжо ў печы тапіць стала.* Пацкава Мсцісл.

ЗРУЧНЫЙ, *прым.* Зручны, да рукі, ёмкі. *Нязручныя мыя трапышка, дрэнна ёй лён трыпаць.* Хвёдараўка Краснап.

ЗРУШЫЦЦА, *дзеясл.* Зрушыцца. *Як быў я мыладэй, то пыскылясіў увесь сьвет, ні так, як ты, сядура, баісься зь места зрушыцца.* Слаўнае Мсцісл.

ЗРУШЫЦЬ, *дзеясл.* Зрушыць. *Нам етый камінь і зь места ня зрушыць, а ня то што на воз пакласьць.* Пацкава Мсцісл. *Зы-*

*латнік зрушыла, дык во і хварэіць цяпер.* Хвёдараўка Краснап.

ЗРЭ́ЗАЦЬ, *дзеясл.* Зрэзаць, спілаваць. *Зрэжце-ка вы, хлопцы, тую асініну, што ны лагу стаіць, ато яна толькі засьціць.* Пірагова Мсціcл.

ЗРЯ, *прысл.* Дарма. *Зря ты яму кнігу аддаў.* Іванаўка Краснап. *Ні магу я пайці, зря будуць яны мяне дажыдаць.* Бяседавічы Хоцім.

ЗРЯШЭ́ЦІЦЬ, *дзеясл.* Пакласці жэрдзі [латы] на слегавіны, па якіх крыюць страху. *Зряшэцій я сваю хату, цяпер і крыць бы можна, ды саломы ня хопіць.* Хвёдараўка Краснап.

ЗУБ, -а, *м.* Зуб. *Майго ж так цяцюха трасе — зуб на зуб ні пыпыдае.* Дарагая Крыч. *Мыя сьвякруха сярдзітыя, таго і глядзі, што дасьць у зубы чыпялою.* Канічы Касцюк. *Нельга вытрываць, як зуб баліць.* Касцюковічы.

ЗУБА́ТЫЙ, *прым.* Зубасты, які не дае сябе крыўдзіць. *Ён, ого якей зубатэй, ні дасьць сябе пакрыўдзіць!* Хвёдараўка Краснап.

ЗУБЕ́Ц, -бца, *м.* Зуб у граблях. *Зубцы ў граблях вельмі частыя.* Пухнава Расня́н.

ЗУБІ́ЛА, -а, *н.* Зубіла. *Зубіла зламіў, і прабіць дзіркі нечым.* Хвёдараўка Краснап.

ЗУБЛУДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Заблудзіць, збіцца з дарогі. *Хадзій-хадзій у лесі і заблудзій неяк.* Парадзіна Мсціcл. *Пы лясу дзеўкі хадзілі ўкучы, каб ні зублудзіць.* Маластоўка Краснап.

ЗУБО́К, -бка, *м.* 1. Зубіла. *Нада зубок зывастрыць, ато ні бярець ён етыга жалеза.* Хвёдараўка Краснап. 2. Зубок, частка галоўкі часнаку. *Узяў зубок чыснаку з хлебам зьеў.* Хвёдараўка Краснап.

ЗУБРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Зубіць, насякаць зубы ў сярпе. *Баба прасіла занесьць сярпы зубрыць.* Палуж Краснап.

ЗУБУЗУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Збіць да паўсмерці. *Як спыймалі Білабуса, што ён краў, дык зубузувалі чыста да сьмерці.* Палуж Краснап.

ЗУБУРЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Забурыцца, разваліцца. *Хата зубурылася.* Палуж Краснап.

ЗУБЧА́СТЫЙ, *прым.* 1. Зубчасты, з вострымі зубамі. *Серп твой зубчастый, лёгка жнець.* Лютня Краснап. 2. Дзюбасты. *Дзяціл — птушка зубчастыя: носым дрўліну даўбець.* Палуж Краснап.

ЗУГУВА́ЛА, -ы, *ж.* 1. Сваццяя. *С цёткай паехыла зугувала.* Крычаў. 2. [Завала], ляны чалавек. *Зугувала етый — нічога ня робіць, а толькі ляжыць.* Машавая Бялынкав. *Вун зугувала наш пашоў.* Хвёдараўка Краснап.

ЗУГУВА́ЛЬНЯ, -і, *ж.* Прызба, насыпаная [для ўцяплення] вакол [ніжніх вянкоў] хаты зямля ці кастрыца. *Міхась, ідзі абсып зугувальню лі хаты, ато скора зіма будзе.* Крычаў.

ЗУГУВА́РІВЫЦЬ, *дзеясл.* Загаворваць, замаўляць. *Як прыгыняюць у лес уперва карой, дык зугуваріюць: «Чуру, мой лес, чуру, мой статычык увесь, а курэй, гусей хуць і воўк паеж!»* Турэйск Краснап.

ЗУПУЗЫ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Загнаць. *Зупузырый тапор пы абух і цяпер ні дыстанеш.* Хвёдараўка Краснап.

ЗУРУБА́ЦЬ, *дзеясл.* Зарубліваць. *Етыя хусткі нада зурубаць спачатку, а тады насіць.* Пірагова Мсціcл.

ЗУСІ́М, *прысл.* Зусім. *Аборы нада зьвіць, ато мае зусім парваліcь.* Тур'я Чэрык. *Зусім старыя тваё аброці.* Крычаў. *Я зусім ні хацеў зь ім сустрыкацца, але случай зыставій.* Добрае Мсціcл.

ЗУСТУДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Застудзіцца. *Ня дзіва, калі чылавек зустудзійся: еткій мароз, ды зь ветрым быў.* Палуж Краснап.

ЗУСЮ́ЛЬ, *прысл.* Адусюль, з усіх канцоў. *Тут ёсьць зусюль, з усіх канцоў сьвету: і з Масквы, і з Ленінграду, і з Кіева, і зкуль іх толькі німа.* Арцёмаўка Міласл.

ЗУХ, -а, *м.* Зух, рашучы, энергічны, гаварысты чалавек. *Такога зуха, як ты, ні вадзілыся.* Хвёдараўка Краснап.

ЗШЫ́ТЫЙ, *прым.* Пашыты. *Чыбаты зшыты добра.* Крычаў. *Нядобра кохта зшыта: сядзіць мяшком.* Вярбоўка Расня́н.

ЗШЫЦЬ, *дзеясл.* Пашыць. *Зшыў сабе нейкую сьвітку на падобства манаха і ходзіць у ёй.* Пірагова Мсціcл.

ЗЫАБЛО́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Зааблажыць, заялавець, зарасці травою, замуражэць. *Мыя пылыса зыаблажыла.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫБАЛЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Забалець. *Ліжаў ны самым брыжу карвацi, аж бакі зыбалелі за нач.* Парадзіна Мсціcл. *Як увідзілі яе ў кароткій спадніцы, дык на сьмех усі пыднялі, аж жываты зыбалелі ат рёгыту.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫБАРО́НІНЫЙ, *прым.* Забаронены. *Увахoд у склад зыбароніный.* Маластоўка Краснап.

ЗЫБАСТО́ЎКА, -і, *ж.* Забастоўка. *Стой, хлопцы, зыбастоўка, большы работаць ні будзім за ету плату.* Серчыцы Краснап.

ЗЫБАСЬЦІ́, *дзеясл.* Занепакоіць. *Коні німа. Мяне зыбало, каб хто ня зьвёў.* Бакунавічы Чэрык.

ЗЫБА́ЦЦА, *дзеясл.* Зыбацца, няўстойліва ляжаць, стаяць. *Кладка зыбаіцца, таго глядзі, абшатнесься.* Маластоўка Краснап.

ЗЫ́БАЦЬ, *дзеясл.* Зыбаць, калыхаць. *Ён зыбыя, як ідзець.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫБА́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Убачыць, угледзець. *Куды маёй мамухні ў клець хадзіць, ‖ А ў клець ідучы, зыбачыць, ‖ А с клеці ідучы, зыплачыць.* З нар. песні, М. Г. 25.

ЗЫБІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Забіваць. *Кажуць, што яго сын бандзіт, з шайкыю грабіць і людзей зыбіваіць.* Арцёмаўка Міласл. *Штота робіцца на сьвеці — брат брата зыбіваіць.* Палуж Краснап.

ЗЫБІЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Крыўдзіць. *Забіжаюць, а як маткі німа, каму пыжалісься?* Парадзіна Мсціcл.

ЗЫБІЛЯ́НЫЙ, *прым.* Забелены. *Зыбіляныя клёцкі лучшы, чым зытыўканыя мясым.* Слаўнае Мсціcл.

ЗЫ́БКА, -і, *ж.* Калыска, люлька. *Пылажы ўжо дзіцёнка ў зыбку, ніхай засьнець.* Ушакі Чэрык.

ЗЫБЛУДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Заблудзіць. *Нада ў каго-небудзь хырашэнька рыспытаць дарогі, ато тут зыблудзіцца можна.* Арцёмаўка Міласл. *Во такоя нейкыя ачмурэньня*

*ны мяне найшло — у такім знакомым лесі заблудзійся.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫБРАЦЦА, *дзеясл.* Забрацца, залезці. *Лядзі, штоб твой конь у шкоду ні зыбраўсь, ато будзя бяды!* Палуж Краснап.

ЗЫБРАЦЬ, *дзеясл.* 1. Забраць, узяць. *Зыбраў вуду і ўсякія прынады і пайшоў рыбу лавіць.* Парадзіна Мсцісл. *Паны кызалі: «Мужык — хабёл, нічога ня ведыя», а еты хабёл усё зыбраў.* Тур'я Краснап. 2. Ахапіць, апанаваць. *Нівясёлый наш Кузьма, нейкыя нуда яго зыбрала.* Канічы Касцюк.

ЗЫБРЫЗГЫТАЦЬ, *дзеясл.* Забразгатаць. *Паклаў грошы ў скарбонку, а як пабег, яны і зыбрызгыталі.* Парадзіна Мсцісл.

ЗЫБРЫТАЦЬ, *дзеясл.* Забратаць, надзець на каня аброць. *Дзе ты падзеў аброць? Нада кыня зыбрытаць.* Палуж Краснап. *Нясі аброць зыбрытаць кыня.* Сохана Мсцісл.

ЗЫБРЯЖДЖЭЦЬ, *дзеясл.* Забразгаць, зазвінець. *Нехта ключамі кыла клеці зыбряжджэў.* Палуж Краснап.

ЗЫБУУЛЯЦЦА, *дзеясл.* Забаўляцца, бавіцца. *Дзіцёнку зыбуўляцца нада, цацкі яму нада купіць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫБЫЖАЦЦА, *дзеясл.* Захацецца. *Зыбыжалысь мне сяньні выпіць, ды кумпаніі німа.* Маластоўка Краснап.

ЗЫБЫЛАКЫЦЦА, *дзеясл.* Забалакацца, загаварыцца. *Зыбылакылась я з вамі, а ў печы, наверна, гаршкі павыбіглі.* Палуж Краснап.

ЗЫБЫРСАЦЬ, *дзеясл.* Забарсаць, зацягнуць аборы ў лапці. *Січас зыбырсаю лапці новымі аборымі і буду абувацца.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫБЫУЛЯЦЬ, *дзеясл.* Забаўляць. *Ах вы, дробныя зьвезды, || Зыбыўляйця вы маіх дзяцей!* З нар. песні.

ЗЫБЯЁДЫВАЦЦА, *дзеясл.* Затаміцца ад цяжкай работы. *Бедныя мае, зыбяёдывалісь саўсім над етаю бульбаю, хадзіця заўтрыкаць.* Куркаўшчына Мсцісл.

ЗЫБЯЛІЦЬ, *дзеясл.* Забяліць, заправіць малаком страву. *Нада ўнесьць мылака крупеню зыбяліць.* Арцёмаўка Міласл. *Мама, хуць ба ты зыбяліла ету крупеню, ато нішчымныя нісмашна. Вазьмі пыстыялкі ды зыбялі.* Машавая Бялынкав.

ЗЫБЯСЬПЕЧЫНЫЙ, *прым.* Забяспечаны. *Дровы ў мяне ёсьць, я на ўсю зіму зыбясьпечыный дрывамі.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫБЯСЬПЕЧЫЦЬ, *дзеясл.* Забяспечыць. *Зыбясьпечыў сям'ю хлебым, цяпер і ехыць можна.* Бардзіч Краснап.

ЗЫВАДЗІЛА, -ы, *м.* Завадзіла, завадатай, пачынальнік. *Ён там зывадзіла, біз яго ні пычанецца, ды ён усюдых першый.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫВАДЗІЦЦА, *дзеясл.* Заходзіць з брэднем. *Зывадзісь брыднікам пат тэй берыг.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫВАДСКІЙ, *прым.* Завадскі, добрага заводу [добрай пароды]. *Палужцы ўзялі на лета зывадзкога бугуя.* Палуж Краснап.

ЗЫВАЛ, -а, *м.* Завал, засоў для завалкі дзвярэй. *Зывалі дзьверы ны зывал, ато ні пачуіш, як хто ўлезіць.* Парадзіна Мсцісл. *Замкні клець ны зывал.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫВАЛІНЫЙ, *прым.* Завалены. *Усё гумно зываліна хлебум.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫВАЛІЦЦА, *дзеясл.* Упасці, паваліцца. *Нада пріняць чурбан к сьцяне, штоб ні зываліўся.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫВАЛІЦЬ, *дзеясл.* 1. Паваліць. *Як пычалі біцца — зывалілі стол, лаўкі.* Старае Сяло Мсцісл. 2. Замкнуць [заперці на завал]. *Зывалі дзьверы ны зывал і ключ прінясі ў хату.* Бакунавічы Чэрык.

ЗЫВАЛКА, -і, *ж.* Залоза. *Глотку абваліла зывалкымі.* Палуж Краснап.

ЗЫВАРВАЦЬ, *дзеясл.* Заварваць. *Чабер — ён пахучый, зь яго і чай зыварваюць калі.* Парадзіна Мсцісл.

ЗЫВАРІЦЬ, *дзеясл.* Заварыць. *Зыварі крыхмал, нада нылашчоніць сарочкі. Была ў цябе ахвота кашу зыварыць, сам і хлібай.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫВАРЬКА, -і, *ж.* Заварка. *Нада чай пыкупаць, зысталысь ны адну зыварьку.* Краснаполле.

ЗЫВАСТРЫЦЦА, *дзеясл.* Завастрыцца. *Нада біць усім бічум, ато ліжыць кончыкум, іш як біч зывастрыўся.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫВАСТРЫЦЬ, *дзеясл.* Завастрыць, зрабіць вострым. *Шыла злумаў, нада зывастрыць.* Бакунавічы Чэрык.

ЗЫВАЦКІЙ, *прым.* Завадскі, добрага заводу [добрай пароды]. *Етый пырасёнак зывацкей, глянь, якей рослый!* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫВІЗАЦЬ, *дзеясл.* Завязаць. *Нашто ты руку зывізаў, парезыў ці што?* Негін Касцюк. *Зывяжы гуньку на перьсьці, штоб ні сьكінулась.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫВІНУЦЦА, *дзеясл.* Завіхнуцца, узяцца за работу хуткім тэмпам. *Яму нада толькі зывінуцца і зарыз дзела пасьпее.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫВІНУЦЬ, *дзеясл.* Захіліць, захутаць. *Трэба зывінуць дзіцёнка ў адзіяла, ато яму холадна будзіць.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫВІРІШЧАЦЬ, *дзеясл.* Завішчаць. *Нехта знаць спужаў ноччу сыбаку, дык ён як зывіряшчыць пыд дзьвірямі, быццам яго хто хыпаіць, а пысьля етыга цэлыю ноч брыхаў.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫВІРЮХА, -і, *ж.* Завіруха, мяцеліца. *Ны дваре зывірюха — сьледу ня відна.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫВІХАЦЦА, *дзеясл.* Гаварыць недарэчы, загаворвацца [і старанна рабіць]. *Ён жа скора сусім с ума сыйдзе — зывіхацца ўжо стаў.* Старае Сяло Мсцісл.

ЗЫВІШЧАЦЬ, *дзеясл.* Завішчаць. *А ніхай цябе, спужаў мяне: як зывішчаў адзаду, аж я падскочыла.* Залачэўка Краснап.

ЗЫВУШНІЦЫ, -аў, *мн. л.* Завушніцы. *Я пыкалола сабе вушы, цяпер нада купіць зывушніцы.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫВЫДАТЫЙ, -ыя, *м.* Верхавод. *Прахор — усяму дзелу зывыдатый: бізь яго, як кажуць, і савета ні було б.* Палуж Краснап.

ЗЫВЫЖДЖАЦЦА, *дзеясл.* Заважлацца. *Зывыжджаўся з канём, а сідак у хату пашоў.* Парадзіна Мсцісл.

ЗЫВЫЛАЧЫЦЦА, *дзеясл.* Захадзіцца, стаміцца ходзячы. *Пастух сусім зывыла-*

*чыўсь, бегыючы зы статкым.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫВЯ́ЗЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Завязваць. *Нышла нейкую лахмотку і пычыла зывязывыць руку, што парезыла серпум.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫВЯЗЬЦІ, *дзеясл.* Завезці. *Зывязі ў алейню кынапель, ніхай выб'юць алею, жмакі каровым пойдуць.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫВЯРНУ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Завярнуць, скіраваць убок. *Падвода праехала ўсю вуліцу і зывярнула на вулку.* Маластоўка Краснап. 2. Завярцець, завязаць. *Іна пыжвала хлеб с сахырым, зывярнула ў лахмотку і дала дзіцёнку сусолку.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫВЯРЦЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Завярцець, завязаць. *Іна атырвала шмат ат кохты і зывярцела парезыныю руку.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫВЯСЬЦІ́, *дзеясл.* 1. Завесці. *Ета конь дужа харошый, рыхманый: яго ж дзіцёнык запутыіць і зывядзець куды нада.* Арцёмаўка Міласл. 2. Завесці, наладзіць, устанавіць. *Вунь якую варту зывёў гэсты пан — баіцца, каб ні забілі.* Ушакі Чэрык.

ЗЫВЯСЬЦІ́СЯ, *дзеясл.* Завесціся. *Ны замку ат сырысьці зывялось іржавіньня.* Слаўнае Мсцісл. *Вазьмі струг ці скоблю ды жэрдзя пачысьці, ато чэрві зывядуцца пыд карою, ды і пагніюць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫВЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Завянуць. *Кінь ты свае цьвяты — яны ўжу зывялі.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ЗЫГАВО́Р, -у, *м.* Замова. *Сходзі ты, Зосічка, да старое Піліпіхі, іна зыгавор ат зьмяіныга ўкусу ведыіць, дык зыгаворя і пройдзіць.* Залесавічы Крыч. *Ён мяне думыў вылічыць усякімі зыгаворымі, а я, брат, ні ў якую клятбу ня верю.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫГАГУ́НЬНЯ, -і, *ж.* Каханка. *Зыгагуньня твыя ня прыдзя сёньня, ня жджы.* Брылёўка Краснап.

ЗЫГАДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Быць годным, падыйсці. *Сілівон у сылдаты зыгадзіўсь.* Палуж Краснап.

ЗЫГА́ДКА, -і, *ж.* Загадка. *Зыгыдала Маруся зыгадку: ‖ Хто з-за мора зельліка дыстаніць, ‖ Тэй са мною на венчыку станіць.* З нар. песні.

ЗЫГАІ́ЦЬ, *дзеясл.* Загаіць. *Рану ў больніцы зыгаілі.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫГА́НА, -ы, *ж.* Загана, недахоп. *Добрыя дзеўка, а што трохі кысывата, дык ета ні зыгана.* Парадзіна Мсцісл. *Адна зыгана — жаніх ніпрігож, ‖ Другая зыгана — конічык ня свой.* З нар. песні.

ЗЫГАНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Загнаць. *Нада карой зыганіць на вор.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫГАРЕ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Загарэцца. *Сьпічка жыг й зыгарелысь. Зыгарелысь у душэ маей помста, ні сьцярплю я абіды.* Слаўнае Мсцісл. *Пад поўныч, яшчэ й людзі ні ўвыспаліСь, зыгарелысь Мыластоўка.* Палуж Краснап. 2. Заірдзецца. *Дзеўка зыгарелысь ат ніспадзеўкі: аж вушы гыряць* (чырвоныя). Лютня Краснап.

ЗЫГАРНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Загарнуць. *Баба зыгарнула жар у загнетнік.* Горы Краснап.

ЗЫГАРО́ДЗЬДЗЯ, -я, *н.* 1. Загарада, агароджа. *Дзеўкі паселі ў рад, як віраб'і ны зыгародзьдзі.* Парадзіна Мсцісл. 2. Месца за агародам, ля агарода. *Дзядоўнік расьце пы зыгародзьдзям ды лі прасла.* Там жа. *Бацька сяньні пыхаў зыгародзьдзя. Бульба пасеіна ны зыгародзьдзі.* Палуж Краснап.

ЗЫГАРЭ́НІЦЬ, *дзеясл.* Зрабіцца горкім, згоркнуць. *Зыгарэнілі мае каноплі.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫГАТО́ВІЦЬ, *дзеясл.* Загатовіць, нарыхтаваць. *Я такую шваю зыгатовіў у лесі, што шасьцёркый ня возьміш.* Горкі Краснап.

ЗЫГІБА́НЬНЯ, -я, *н.* Згінанне. *Ні аб якім зыгібаньні тут ні піхходзіцца гывариць, таму што ета дрот стальнэй, а сталь ня гнецца, а лымаіцца.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫГІНА́ЦЬ, *дзеясл.* Загінаць. *Прінясі з сенцыў бабу — будзім абручі зыгінаць.* Маластоўка Краснап.

ЗЫГЛАДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Загладзіцца. *Складзі ты сваю спадніцу ў хвальботы і зывяжы, штоб зыгладзілісь.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫГЛІДА́ЦЦА, *дзеясл.* Цікавіцца. *Ён зыглідаіцца ёю: кажный дзень туды ходзя.* Дубровічы Краснап.

ЗЫГЛУ́ЗЬДЗІЦЦА, *дзеясл.* Заглуздзіцца, здурнець. *Ты што? Зыглузьдзіўсь саўсім? Дзіцёнка чуць ні збіў з ног.* Палуж Краснап.

ЗЫГЛУШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Заглушыць. *Лібіда зыглушыла мае грады.* Меншая Багацькаўка Мсцісл. *Нада пупалоць лён, ато жыціц яго саўсім зыглушыў.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫГЛЯ́НУЦЬ, *дзеясл.* Заглянуць. *Нябось, нябось, Марычка, ні зьвяніць, ‖ Калі мыя мамычка зыгляніць.* З нар. песні.

ЗЫГНА́ЦЬ, *дзеясл.* Загнаць. *Вахныль ніяк ні зыгнаць у падкову.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫГРАБЦІ́, *дзеясл.* Загрэбці. *Зыграбі ты, дзетка, жар у пячурку.* Краснаручча Расннян.

ЗЫГРАНІ́ШНЫЙ, *прым.* Загранічны, замежны. *Нылажылі бальшую пошліну ны зыгранішныя тывары, таму яны і дорыгі так сталі.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫГРІБА́ЛА, -а, *м.* Заграбайла. *Ня будзь ты такім зыгрібалым, усё б ты к сваім рукам прібраў, а другім ба кукіш.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫГРІБА́ЦЬ, *дзеясл.* Заграбаць. *Бацька з Волькый ныклыдалі сена, а я зыгрібаў кыла вазоў атрускі.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫГРЫМЕ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Загрымець. *Мылыдня як мільгенець, гром як зыгріміць, дык аж вокны зыбрязкылі.* Слаўнае Мсцісл. 2. Упасці. *Як дай яму натмашна, дык і зыгрымей.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫГРЯЗЬНІ́ЦЦА, *дзеясл.* Запэцкацца, забрудзіцца, зрабіцца брудным. *Зыгрязьніўся ў нашый хаці мост, нада ўжо мыць.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫГУБІ́ЦЬ, *дзеясл.* Зыгубіць, забіць. *Зыгубіў дзьве душы: кымыра ды муху.* Большая Багацькаўка Мсцісл.

ЗЫГУБЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Загубляць. *Зыгубляеш ты маё жыцьцё, жывую ў гроб кладзеш!* Пірагова Мсцісл.

ЗЫГУВА́ЛЬНЯ, -і, *ж.* 1. Прызба. *Пріходзіць зіма, нада зыгувальню кругом хаты зьдзелыць, дык цяплей будзіць зімуваць.*

Бяседавічы Хоцім. 2. Лаўка каля хаты. *Зыгувальня, ны якой я часта сядзеў, прысланіўшысь сьпіной к хаці, уся разурылысь.* Лешчынка Мсцісл.

ЗЫГУКАЦІ, *дзеясл.* Заклікаць, гукаць. *Блыгыславі, божа,* || *Прячыстыя маці,* || *Вясну зыгукаці,* || *Зіму зымыкаці.* З нар. песні.

ЗЫГУЛЯЦЦА, *дзеясл.* Загуляцца, засядзецца, забавіцца. *Яму што п там ні зыгуляцца ў гысьцях ды ні зунучуваць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫГЫВАЛІНА, -ы, *ж.* Прызба. *З етыга боку хаты зыгываліна кажыцца вышы насыпына, чым з тога.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫГЫВАЛЬНЯ, -і, *ж.* Прызба. *Зыгывальні трэба абкласьці — зіма падыходзіць.* Зарэчча Мсцісл. *Сьвіньні зыгывальню кылы хаты абрылі.* Брылёўка Краснап.

ЗЫГЫДАЦЬ, *дзеясл.* 1. Загадаць, сказаць. *Агура хлапец, нічога ня зьдзелыя, што зыгыдаіш.* Маластоўка Краснап. 2. Загадаць загадку. *Зыгыдаў ты нам зыгадку, што й ні рызгыдаіш.* Дубровіцы Краснап. 3. Задумаць. *Зыгыдаў жа ехыць у такую бездыраж у горыд.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫГЫЛАСІЦЬ, *дзеясл.* Заплакаць [уголас]. *Добрыя дзіцянё: пывалілыся і ні плачыць, каб мой етык, дык ба ўжо зыгыласіў на ўсю хату.* Гарадок Расняп.

ЗЫГЫМАНІЦЦА, *дзеясл.* Загаварыцца. *Пышла к суседу ны адну мінутку, а як зыгыманілысь, дык і час прайшоў, ня ўглезіла.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫГЫНЯЦЬ, *дзеясл.* Заганяць. *Адзіноцтва ў гроб зыгыняіць.* Пірагова Мсцісл.

ЗЫГЫРАДЖЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Загароджваць, гарадзіць. *Калі ня хочыш, штоб сьвіньні хадзілі ў гарод, дык зыгыряджывый.* Бяседавічы Хоцім. *Ні нада зыгыраджывыць лескыю капусту, а луччы жырдзямі.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫГЫРАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Загарадзіць. *Стаіць нейкыя рыгізуля, увесь праход зыгырадзіла. Ну й гырадзьбік з цябе, во зыгырадзіў дык зыгырадзіў!* Палуж Краснап.

ЗЫГЫРАДЗІЦЦА, *дзеясл.* Загарадзіцца. *Як унадзіліся сьвіньні ў гарод, ніяк ні зыгародзісься ад іх.* Парадзіна Мсцісл.

ЗЫДАБРЫЦЬ, *дзеясл.* Заправіць, затаўчы, пакласці ў гаршчок затаўку. *Зыдабры гаршчкі! Нечым! Німа задыбры.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫДАВІЦЦА, *дзеясл.* Задавіцца, павесіцца. *Я пупаў у такоя сіло, хуць зыдавісь.* Палуж Краснап.

ЗЫДАВОЛЬНЫЙ, *прым.* Задавальняючы. *Ета зыдавольный атказ, другей ні надыбін.* Горкі Краснап.

ЗЫДАЖДЖЫЦЦА, *дзеясл.* Задажджыцца, занягодзіцца, пачаць ісці дажджу бесперапынку. *Дыжджавэя чырвякі пувылазілі зь зямлі — знаць, зыдажджыцца надўга.* Журбін Бялынкав.

ЗЫДАЦЦА, *дзеясл.* Удацца, быць падобным да каго. *Зыдаўсь пы бацькывый вудылі.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫДАЦЬ, *дзеясл.* 1. Задаць [надаваць], набіць. *Як зыдалі яму, дык ён вопрамець ды хаты кінуўсь!* Старае Сяло Мсцісл. *Зыдай ёй хырашэнька, штоп ні було ўнадна, штоп ні хадзіла больш у шкоду.* Арцёмаўка Міласл. 2. Задаць, даць заданне. *Госьці зыдалі нам клыпатосьці.* Маластоўка Краснап.

ЗЫДАЧА, -ы, *ж.* 1. Задача. *Вядро ў калодзісь увалілысь; зыдача — як яго цяпер вынуць.* Арцёмаўка Міласл. *Ета ні зыдача, а ныстыяшчыя мызгаломка, ніяк ні прідумаю, як яе ряшыць.* Бяседавічы Хоцім. *Я рішыла зыдачу.* Слаўнае Мсцісл. 2. Чалавек, што любіць прыбірацца, франт. *Во зыдача — надзеў новую рубаху, дык думаець, што луччы зы яго на сьвеці нікога німа.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫДАШНІК, -а, *м.* Задачнік. *Дай ты мне свайго зыдашніка, зыдачу сьпісаць. Хто ета мой зыдашнік пырваў?* Шарэйкі Касцюк.

ЗЫДЗІРВАНЕЦЬ, *дзеясл.* Задзірванець, зарасці травою. *Зімля зыдзірванела, пыхаць трудна.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫДЗІЎЛЕНЬНЯ, -я, *н.* Здзіўленне. *Зыдзіўленьня мяне бярэць, як ета ты ня можыш пыняць маіх слоў?* Пірагова Мсцісл.

ЗЫДРАЦЬ, *дзеясл.* 1. Задраць. *Ты ж пільнуй, каб коршун ні зыдраў кур.* Старае Сяло Мсцісл. 2. Загрызці. *Глянь, у мыйго сыбакі ўся пыса ў крыві, пэўна зноў зайца зыдраў.* Барысавічы Клім. 3. Падняць уверх. *Мужык як крымзанець пана дубіный, тэй і ногі зыдраў.* Палуж Краснап.

ЗЫДРАНЦЬВЕЦЬ, *дзеясл.* Здранцвець [задубець]. *Зыдранцьвелі ат страху мае рукі і ногі.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫДУБЕЛЫЙ, *прым.* Задубелы, здранцвелы. *Ні магу рысьцігнуцца — зыдубелыя рукі ат холыду.* Горкі Краснап.

ЗЫДЫВАНЬНЯ, -я, *н.* Задаванне, гонар. *Пажый у горыдзі месіц, дык зыдываньня на год хопіць.* Парадзіна Мсцісл.

ЗЫДЫВАЦЦА, *дзеясл.* Задавацца, ганарыцца [выхваляцца]. *Ён як пріехуў з шахтуў, як надзеў новую рубаху і штаны, дык так стаў зыдывацца, што носа ні дыстаніш.* Арцёмаўка Міласл. *Ён дужа заносьлівый і гынарлівый хлопіц, хуць і німа яму чым зыдывацца.* Слаўнае Мсцісл. *Добрый быў чылавек, а як стаў кымісарым, пачыў зыдывацца, а чаго ты зыдаесься?* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫДЫХНУЦЦА, *дзеясл.* Задыхнуцца. *Чуць ні зыдыхнуўся ат дыму.* Сохана Мсцісл.

ЗЫЖДАЦЦА, *дзеясл.* Зачакацца, доўга чакаць з нецярплівасцю. *Дзе ты быў так доўга, я цябе тут ужо зыждаўся!* Бакунавічы Чэрык.

ЗЫЖЫВАЦЬ, *дзеясл.* Загойвацца, зарастаць. *Пызыклеівый ты свае былячкі плясьцірым, можа скарей зыжываць станець.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫЗВАЦЬ, *дзеясл.* Заклікаць [паклікаць]. *Зызвала мяне ты ны свадзьбу, во я і прышоў.* Мсціслаў.

ЗЫЗІЛЯНЕЦЬ, *дзеясл.* Зазелянець. *Сонца прігрела пу вясеньніму, і зызілянела траўка на прыгаліных.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫЗЛУВАЦЦА, *дзеясл.* Зазлавацца, разгневацца. *Зызлуваўсь Іван: пайшоў і дабраныч ні скызаў.* Радзівонаўка Мсцісл.

ЗЫЗЬВІНЕЦЬ, *дзеясл.* Зазвінець. *Ён расьсердзіўся і ўцёк, дык як лясную дзьвярмі, аж вокны зазьвінелі.* Арцёмаўка Міласл. *Сярпы зазьвінелі,* || *Двору зыхацелі.* З нар. песні.

ЗЫЙГРАЦЬ, *дзеясл.* Зайграць. *Зыйграй мне, музыка, што-нібудзь вясёлыя, каб весіла було.* Камароўка Крыч.

ЗЫЙМАЦЬ, *дзеясл.* 1. Займаць. *Наш Васіль — ета ныстыяшчыя глымызда: ні зьдзелыць, ні скызаць, толькі мейсца зыймае.* Гарманава Мсцісл. 2. Чапляцца [прыставаць]. *Ні зыймай мяне, ато дренна табе будзець!* Высокі Бор Краснап.

ЗЫК, -а і -у, *м.* 1. Зык, шум ад крылляў мухі. *Каровы ў сквар быяцца зыку ваднёў і іх пакусаў.* Сохана Мсцісл. 2. Беганне жывёлы ад заедзі (авадні, сляпні) улетку. *У жаркыю пагоду каровы падымаюць зык, тады іх дваццыць пустухоў ня ўдзержыць — бягуць куды каторыя.* Бяседавічы Хоцім. *Карову б'юць за зык, а бабу за язык.* Хвёдараўка Краснап. *Ны кароў ныпаў зык, дык яны і пабеглі.* Гібалы Касцюк.

ЗЫКАБУ́НКА, -і, *ж.* Закавыка, загадка. *Што ты зыкабункі выкідвыіш, кажы прама.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫКАВУ́ЛЫК, -лка, *м.* Завулак, глухі куток. *Я жыву ў зыкавулку, ды мяне ніхто і ні заходзіць.* Кокатава Мсцісл.

ЗЫКАЗЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Заказваць. *У мяне дужа вялікыя ступня, ні адзін бацінык у мыгазіні ня лезіць, нада зыказывыць шаўцу.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫКА́ЗЫНЫЙ, *прым.* Забаронены. *Дарога тут зыказыныя, ехыць нільзя: бачыш, вешка стаіць.* Маластоўка Краснап.

ЗЫКАКЛЮ́ЧКА, -і, *ж.* Зачэпка, замінка. *Зыкаключка йкая-то ёсьць у етым дзелі.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫКАЛЁНЫЙ, *прым.* Скалелы, змерзлы, прастылы. *Сын вярнуўсь зь лесу зыкалёны і палез на печку грецца.* Гаўрыленка Бялынкав.

ЗЫКАЛЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Скалець, змерзнуць. *Зыкалела я ўся, седзячы ны калёсых, думала, ні даеду двору, аж пасінела ўся.* Высокі Бор Краснап.

ЗЫКАЛО́ЦЬ, *дзеясл.* Закалоць. *Так бег пыд гару зы канём, што аж у бок зыкалола.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫКАЛУПІЦЬ, *дзеясл.* Падкалупнуць. *Зыкалупіў спаднічэну ды пашлёпыў яе, каб ні капрызілыся.* Пірагова Мсцісл.

ЗЫ́КАНДРЫ́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Зарэзаць, загрызці. *Зыкандрычыў воўк карову.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫКА́ПЫЦЬ, *дзеясл.* Закапаць. *Пысьля траскучыга марозу наступіла тыкая вотліг, што аж с крыш зыкапыла.* Сохана Мсцісл.

ЗЫКАРЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Забруднець. *Плацьця зыкарэла — ня тмыіш.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫКАЦІЦЦА, *дзеясл.* 1. Закаціцца. *Грошы зыкаціліся ў падмосьця.* Палуж Краснап. 2. Зайсці (пра сонца). *Ды ўжо сонійка зыкацілыся,‖ Мне ды мамычкі зыхацелыся.* З нар. песні.

ЗЫКАЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Закаціць. *Зыкацілі ў погріб трі бочкі гуркоў.* Бакунавічы Чэрык. 2. Зараўнаваць. *Мы ж ба тую дарожычку кыўрамі ўвыслалі,‖ Мы ж ба кылявінычкі персьнімі зыкацілі.* З нар. песні.

ЗЫ́КАЦЬ, *дзеясл.* 1. Зыкаць [звінець]. *Мухі зыкаюць пы хаці.* Бардзіч Краснап. 2. Бегаць ад укусаў ваднёў. *Каровы ўлетку зыкаюць, пызадзіраўшы хвасты.* Лапаціна Мсцісл.

ЗЫКІВІРЗАЦЬ, *дзеясл.* Заплесці. *Зыківірзаў галоўку ў лапці.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫКІЛЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Закілзаць. *Дужа ні пануківый, бо ні закілзаў.* Добрае Мсцісл.

ЗЫКЛА́СЦА, *дзеясл.* Закласціся. *Міхей зыклаўся з бацькым, што за дзень удваіх скосюць луг.* Палуж Краснап.

ЗЫКІЛЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Закілзаць. *Дужа кладзі там чэп і засунь колік, ато веціp вароты атчыніць.* Бяседавічы Хоцім. *Зыкладзі пыдваротніцу, каб сьвіньні ня лезьлі.* Хвёдараўка Краснап. 2. Запрэгчы. *Зыкладзі кыня ў вазок, паедзім к свату ў госці.* Бобрыкі Мсцісл. 3. Аддаць у заклад. *Нада зыкласьць кажух ды купіць хлеба.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫКЛЯ́ТЫЙ, *прым.* Закляты. *Ён мой ворыг заклятый, чаго я к яму пайду?* Пірагова Мсцісл. *Многа ёсьць казык аб зыклятых грошых, як яны ны Івана Купала зь зямлі вылазюць.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫ́КНУЦЬ, *дзеясл.* Пабегчы ад укусаў аваднёў. *Ны кароў ныпаў зык, і мыя цёлычка за імі як зыкнула, дык толькі я яе і ўбачыў!* Гібалы Касцюк.

ЗЫКРА́ЙКА, -і, *ж.* Закраек, кромка. *Платочык з зыкрайкый; платочык жоўцінькій, а зыкрайка, як сярэбрыныя.* Восаў Краснап.

ЗЫКРА́ІЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад зыкрайка. *Вось штоб у етым платочку хуць маліанькыя зыкраічка была, дык ба ён прыгажэй выглідаў.* Бардзіч Краснап.

ЗЫКРА́КЫЦЬ, *дзеясл.* Закракаць. *Вуткі нешта зыкракылі, пыглянь, мо сыбака пабег.* Залачова Мсцісл.

ЗЫКРАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Закрануць, зачапіць. *Падумаіш, скула ікая — і зыкрануць нільзя.* Маляцічы Крыч.

ЗЫКРА́СІЦЬ, *дзеясл.* Зафарбаваць. *Ета места нада зыкрасіць, штоб ні відна было.* Лютня Краснап.

ЗЫКРУЦІЦЦА, *дзеясл.* Закруціцца. *А між гор было такоя прывальля вялікыя — глянулі туды, аж гылыва зыкруцілась.* Ушакі Чэрык. *Мяне знінацку так ударылі поўху, што гылыва зыкруцілыся.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫКРУЦІЦЬ, *дзеясл.* 1. Закруціць, заврцець. *Зыкруці луччы анучы, ато цэўка відна.* Лешчынка Мсцісл. *А белыя бярозынька ваду зымуціла,‖ Бішчасныя мяне доля замуж зыкруціла.* З нар. песні, М. Г. 90.

ЗЫКРЫВА́ЦЦА, *дзеясл.* Зачыняцца. *У іх яшчэ цэлый кубіл сала стаіць, чуць крышка зыкрываіцца.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫКРЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Зачыняць. *Зыкрывай дзяжу векым ды ідзі прынясі дроў — печ нада зытаплівыць.* Стары Дзедзін Міласл.

ЗЫКУБА́НЬ, -і, *ж.* Невялікая затока на рацэ. *Зывадзісь брыднікам у закубань, там дылжна быць рыба.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫКУЁ́ЎДЗІЦЦА, *дзеясл.* Закінуцца, запрапасці. *Куды ета маё паліто закуёўдзілысь?* Сутокі Мсцісл.

ЗЫКУРІЦЦА, *дзеясл.* Закурыцца, задыміцца. *Закурілысь дарога, дожджу доўга німа.* Серчыцы Краснап. *Зыкуріўся сільный, дробный дожджык || Кыла цёмныга лесу.* З нар. песні, М. Г. 94.

ЗЫКУРЫЦЬ, *дзеясл.* Закурыць. *Бацька зыкурыў піпку.* Палуж Краснап. *Дзед, каб закурыць, дыстаў з-зы пазухі кісет с тыбакыю, скалку, губу і вогніва і пычаў набіваць піпку.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫКУТАЦЬ, *дзеясл.* Зачыняць. *Зыкутай дзверы зы сабою! Ета ж ні вісна табе.* Кокатава Мсцісл.

ЗЫКЫЗАЦЬ, *дзеясл.* Заказаць. *Етый сапожнік-тыкі ладна магець шыць, яму можна і харошыя сыпагі зыкызаць.* Арцёмаўка Міласл. *Я зыкызаў шаўцу пашыць мне боты.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫКЫЛКА, -і, *ж.* Страказа. *У ясный дзень зыкылкі літаюць, а ў дождж хуваюцца пад лісьця дрэў.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫКЫРЯВЕЦЬ, *дзеясл.* Закаравець, зрабіцца каравым. *Зыкырявелі нучы, намыць нада.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫКЫСАНЫЙ, *прым.* Закасаны. *Як вылізла з дзяжы, так і прібегла з зыкысаными рукамі.* Янава Раснян.

ЗЫКЫСАЦЬ, *дзеясл.* Закасаць. *Зыкысай рукавы, ато запачкаіш.* Камароўка Крыч.

ЗЫКЫЎКА, -і, *ж.* Страказа. *Многа зыкывык пынасела ны прясла.* Хвёдараўка Краснап. *Я зыкыўку спыймаў, глядзі,ікая, жоўцінькыя!* Паўлавічы Клім.

ЗЫЛАМІЦЬ, *дзеясл.* Заламіць. *Нехта нашу кылыкалушу зыламіў.* Сыпрынавічы Мсцісл. *А сухая ляшчынычка || Дарожку зыламіла, || Нялюбыя дружыніца ||Ат роду атлучыла.* З нар. песні.

ЗЫЛАТУХА, -і, *ж.* Залатуха [хвароба]. *Ета зылатуха ў яго, дак кыла вушэй, кыла носу былячкі селі.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫЛАТУШНЫЙ, *прым.* Залатушны. *Дзіцёнык знаць зылатушный, што ў яго ўсягды болькі кыла вушэй, кыла носу.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫЛІВАЦЦА, *дзеясл.* Заліваццa (слязамі). *Дзіцёнык стаіць пысярёдку людзей ды плача-зыліваіцца.* Палуж Краснап. *Браты сіты шыюць, уздрыгаючысь, || Сёстры платкі мыюць, зыліваючысь, || Мачыха кросны тчэць — нычругаіцца.* З нар. песні, М. Г. 128.

ЗЫЛІГАЦЬ, *дзеясл.* Залягаць. *Сырая зімля дзьверы зылігла і ваконцы зысланіла, як тая песьня кажа, годзі яму ўжо ўстаць.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ЗЫЛУЗНУЦЬ, *дзеясл.* Зачапіць. *Нёс услоніц ды зылузнуў яго неік у бок, а ён ужо і рысплакыўся.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫЛУЧЫЦЬ, *дзеясл.* Залучыць, зацягнуць. *Зылучылі ды сябе хлыпца і пычаўсь абной.* Старае Сяло Мсцісл.

ЗЫЛЫСКЫТАЦЬ, дзеясл. 1. Заляскатаць. *Галодный воўк як зыласкочыць, зыласкочыць зубамі.* Слаўнае Мсцісл. 2. Заласкатаць, заказытаць. *Крій бог, зылыскыталі да сьмерці: я лыскатаньня дужа баюсь.* Залачэўка Краснап.

ЗЫЛЯПІЦЬ, *дзеясл.* 1. Заляпіць. *Вядро цячэць, нада зыляпіць цестум дзірачку або кыласочкым зыцягнуць.* Маляцічы Крыч. 2. Выцяць [пляснуць]. *Як зыляпіў яму поўху, аж зашчочына красныя стала.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫЛЯЦЕЦЬ, *дзеясл.* Заляцець. *Сяньні ў маю борць зыляцеў рой.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫМАМУЛІЦЬ, *дзеясл.* Надуць, закусіць. *Сядзіць, губы зымамуліла і маўчыць.* Сохана Мсцісл.

ЗЫМАНУЦЦА, *дзеясл.* Захацець. *Зымануўся бацька купіць кабылу, як пубачыў, як іна бяжыць.* Самацевічы Касцюк.

ЗЫМАРІЦЦА, *дзеясл.* Стаміцца. *Уцікаючы, так зымаріўсь, што ледзь атхаіўся.* Арцёмаўка Міласл. *Нада ж было так зымаріцца, што ні ног, ні рук ня чую.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫМАРОЗІЦЬ, *дзеясл.* Замарозіць. *Учора ішоў дождж, а сяньні зымарозіла.* Белы Мох Мсцісл. *Зымарозілі мы сваю бульбу.* Маластоўка Краснап.

ЗЫМАРУДЗІЦЦА, *дзеясл.* Забавіцца, доўга засядзецца [затрымацца]. *Чыкай яе, а іна там зымарудзілыся нешта і ня йдзе.* Парадзіна Мсцісл. *Трохі зымарудзіўсь, ріспригаючы коній.* Палуж Краснап.

ЗЫМАСКОЛІЦЬ, *дзеясл.* Затупіць. *Узяў тапор вострый, а зымасколіў, як абух стаў.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫМАСЬЛІЦЬ, *дзеясл.* 1. Запрaвіць маслам. *Кашу мала зымасьліла маці: сухая саўсім.* Лютня Краснап. 2. Замасліць, даць хабара. *Калі ты хочыш, каб табе скарей адбілі лес, дык нада лясьнічыму вочы зымасьліць, а так ды вясны ні атаб'ець.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫМАЦЫЦЬ, *дзеясл.* Намацаць, найці ўпоцемку. *Цёмна, але неяк хлеб зымацыў і пычаў есьць.* Старае Сяло Мсцісл.

ЗЫМІТАЦЬ, *дзеясл.* Замятаць, месці. *Ны дваре тыкая завея, што ўраз сьлед зымітаіць.* Пячонкі Раснян. *Зымітай, маці, попіл, || Мы тваю дачку ўхопім!* З нар. песні, М. Г. 30.

ЗЫМУДОХЫЦЦА, *дзеясл.* Стаміцца [выбіцца з сілы]. *Ты саўсім ужо зымудохылась, ідзі аддыхні.* Сутокі Мсцісл.

ЗЫМУЗДАЦЬ, *дзеясл.* Закілзаць [завуздаць]. *Пасоб мне зымуздаць кыня!* Кокатава Мсцісл. *Бяры муздэчку і зымуздай кыня.* Сохана Мсцісл.

ЗЫМУРАЖЭЦЬ, *дзеясл.* Замуражэць, зарасці травою, мурагом. *Мыя пылыса зымуражэла.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫМУРДУВАЦЦА, *дзеясл.* Замардавацца, стаміцца ад работы. *Зымурдуваўся я, мылаціўшы, рук ні магу пыдняць.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫМУТУЗІЦЬ, *дзеясл.* Заматузіць, пасварыцца, даць праборку. *Я яго зымутузіў, што коніка ў лагу пасьцівіў.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫМУШТРУВАЦЦА, *дзеясл.* Змарыцца. *Зымуштруваўся мой конік сяньні і травы есьць ня хоча.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫМЫРАЦЬ, *дзеясл.* Замараць, запэцкаць. *Дзе йта ты сваю рубашку зымыраў?* Валымар Раснян. *Рыспухліў шапычку, паклон б'ючы, || Зымыраў хустычку, уціраіся!* З нар. песні, М. Г. 31.

ЗЫМЫРАШЫЦЬ, *дзеясл.* Замарасіць, запарашыць. *Дождж зымырашыў — хувайця хомуты.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫМЫРДЫВАНЫЙ, *прым.* Замардаваны, зморананы. *Зымырдываный конь чуць адхадзіўся на стойле.* Пірагова Мсцісл.
ЗЫМЫРДЫВАЦЦА, *дзеясл.* Замардавацца. *Ён зусім зымырдываўсь за дзень, снапы возючы.* Хвёдараўка Краснап.
ЗЫМЫТРАШЫЦЬ, *дзеясл.* Замарасіць, запарашыць. *Зымытрашыў дождж.* Кокатава Мсцісл.
ЗЫМЫЎЧАЦЬ, *дзеясл.* Замаўчаць, змоўкнуць. *Ці вы падурэлі, хуць трохі б зымыўчалі, ато крычаць на ўсю хату, што аж гылыва разьлігаіцца.* Зубоўка Раснян. *Зымаўчы, ато ськіпіш ны нажы!* Бардзіч Краснап.
ЗЫМЯСІЦЬ, *дзеясл.* Замясіць. *Зымясілі цэлую дзяжу цеста.* Слаўнае Мсцісл.
ЗЫНАТУРЫЦЦА, *дзеясл.* Занатурыцца. *Етый конь, як зынатурыцца, дык хоць яго на месьці забі, так ня пойдзе.* Мышкі Раснян. *Конь зынатурыўсь.* Хвёдараўка Краснап.
ЗЫНАЧУВАЦЬ, *дзеясл.* Заначаваць. *Ні канешня табе сяньні іці двору — зыначуй.* Слаўнае Мсцісл.
ЗЫНІМАЦЬ, *дзеясл.* 1. Займаць. *Наша вучылішча зынімае казённы дом.* Слаўнае Мсцісл. 2. Збіраць, рыхтаваць. *Яе мамычка, яе родныя ‖ Вячэрыць зынімаіць.* З нар. песні, М. Г. 26.
ЗЫНІПАСЬЦІ, *дзеясл.* Заняпасці, занядужаць, захварэць. *Мой швагра нешта зыніпаў, баюсь, каб сістра ўдавою ні зыстылася.* Лешчынка Мсцісл.
ЗЫНІПЫДАЦЬ, *дзеясл.* Занепадаць, занядужваць, недамагаць. *Стаў ён ужо зь лета неяк зыніпыдаць, далій-болій—пакультыкі ні зьлег саўсім.* Арцёмаўка Міласл.
ЗЫНЦІРЫСЫВАЦЦА, *дзеясл.* Зацікавіцца. *Я дужа зынцірысываўся, як ета гонюць сымагонку.* Слаўнае Мсцісл.
ЗЫНЯМЕЦЬ, *дзеясл.* Занямець, зрабіцца нямым, змоўкнуць. *Як скызаў я йму ета, дык ён і зынямеў.* Горна Краснап.
ЗЫНЯСЬЦІ, *дзеясл.* 1. Занесці. *Зынясі ета ў каморку і пылажы ў кубел.* Горкі Краснап. 2. Занесці снегам ці пяском, завеяць. *Сьнегым понюўку зынясло, што нічуць ні відна, айдзе іна.* Арцёмаўка Міласл. 3. Заплакаць уголас. *Кыцярына хустку паціралa, дык як зынясе на ўсё поля — здаецца, як па мёртвыму.* Дзеражна Касцюк.
ЗЫНЯЦЬ, *дзеясл.* Заняць. *Я бегма бег, йано дух зыняло, пакуль цябе дыгнаў.* Жалезніца Крыч.
ЗЫПАЗЫШША, -а, *н.* Запазушша, месца за пазухай сарочкі. *Грошы схываны ў зыпазышша.* Палуж Краснап.
ЗЫПАЛ, -у, *м.* Запал, гарачнасць. *Ой, якей жа ў цябе зыпал, будзь-ка ты трошкі спыкайней!* Пірагова Мсцісл.
ЗЫПАЛЕНЬНЯ, -я, *н.* Запаленне (лёгкіх). *У яго дохтыр прызнаў зыпаленьня.* Тур'я Краснап.
ЗЫПАЛІЦЦА, *дзеясл.* Запаліцца. *Шахцёр шморгнуў сярнічку, а йна ні зыпалілысь.* Палуж Краснап.
ЗЫПАЛІЦЬ, *дзеясл.* Запаліць. *Бывала, зыпалю я кыганок і пряду сабе целую ноч, а цяпер і днём ахвоты німа.* Бяседавічы Хоцім. *Упоцімку ня згодна ткаць, нада зыпаліць лямпу.* Слаўнае Мсцісл. *Зыпаліла сьвечку, пыставіла ў падсьвешнік і пынісла яго на стол.*
ЗЫПАЛКА, -і, *ж.* Запалка, сярнічка. *Ці ёсьць у нас зыпалкі?* Хвёдараўка Краснап. *Зыпалі зыпалку ды пысьвяці трохі.* Суток Мсцісл.
ЗЫПАЛОХЫЦЬ, *дзеясл.* Запалохаць, застрашыць. *Хлопіц сьмелый, яго ні зыпалохыіш вайком.* Залачоўка Краснап.
ЗЫПАЛЬЧЫВЫЙ, *прым.* Запальчывы. *Ён дужа зыпальчыў: чаго захоча, хоць рызарвісь, дай.* Хвёдараўка Краснап.
ЗЫПАРОЦЬ, *дзеясл.* Запароць, зарэзаць. *Воўк зыпароў кыня.* Хвёдараўка Краснап.
ЗЫПАХНУЦЬ, *дзеясл.* Запахнуць, пачаць пахнуць. *Вецір павеіў з саду, і мятый зыпахло.* Баеўка Крыч. *Сядзелі мы ны лагу, ны Мар'ю ўспоўз бзьдзюль, а іна яго нісумысьля рыздавіла, дык як зыпахніць клыпамі.* Слаўнае Мсцісл.
ЗЫПАХЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Баранаваць [і заворваць]. *Учора пасеіў лубін, дык нада ехыць зыпахывыць, ато сьпякець сонцым.* Хвёдараўка Краснап.
ЗЫПІВАЦЬ, *дзеясл.* Запяваць, пачынаць спяваць. *Ну, ты будзіш нам зыпіваць, а мы будзім пець.* Бяседавічы Хоцім. *Дзяўчаты пычалі зыпіваць вясёлыя песьні.* Слаўнае Мсцісл.
ЗЫПІКАЦЦА, *дзеясл.* Запякацца. *Пыдлажы троху шчэпычык, ніхай хлеб зыпікаіцца — штоб скарынка румяныя была.* Шчыпаў Раснян. *Чаго ты расхрістына ходзіш? Засьцягніcь, ато зыпякуцца грудзі.* Бяседавічы Хоцім.
ЗЫПІСАЦЬ, *дзеясл.* Запісаць. *Я быў вычыркнутый з сьпіскыў пы налогу, а цяпер ізноў зыпісалі.* Слаўнае Мсцісл.
ЗЫПЛАКЫЦЬ, *дзеясл.* Заплакаць. *Ды тага ён сяньні рызазліўсь, што дайжа зыплакыў ад злосьці.* Бяседавічы Хоцім. *Дзіцёнык стыяў, стыяў, зыплакыў ды пашоў.* Ушакі Чэрык.
ЗЫПЛАТА, -ы, *ж.* Заплата [аплата]. *А йкая будзя зыплата за ета?* Палуж Краснап.
ЗЫПЛАЦІЦЬ, *дзеясл.* Заплаціць. *Вот абжуліўсь, дык абжуліўсь — зы такія ночвы зыплаціў ажно два рублі!* Мсціслаў. *Дыгыварілісь руп у дзень, а зыплаціў па восім грівін.* Арцёмаўка Міласл.
ЗЫПЛІКНУЦЬ, *дзеясл.* Зашпіліць, засцягнуць. *Зыплікні сьвітку ны запліччкі.* Палуж Краснап. *Зыплікні мне сарочку.* Кокатава Мсцісл.
ЗЫПЛІТАЦЬ, *дзеясл.* Заплятаць. *Дзеўка касу зыплітаіць.* Большая Багацькаўка Мсцісл.
ЗЫПЛЯСЬНЕЛЫЙ, *прым.* Запляснелы, *Кымісар так добра кызаў, што народ зыпляскаў у ладошы.* Трубільня Краснап.
ЗЫПЛЯСЬНЕЛЫЙ, *прым.* Запляснелы, забраснелы, пакрыты цвіллю. *Калі выцігнулі бачонык із погріба, дык ён быў такей зыплясьнелый, што гідка зы яго ўзяцца було.* Бяседавічы Хоцім.
ЗЫПЛЯСЬЦІСЯ, *дзеясл.* 1. Заплесціся, заплесці ў касу свае валасы. *Зыплілася ў касу.* Хвёдараўка Краснап. 2. Зайсці. *Дзе ты*

*быў, абібок ты етакій, людзі працуюць, а ён зыпляцецца недзе ды сядзіць целый дзень!* Гусарка Клім.

ЗЫПЛЯЦЕНЫЙ, *прым.* Заплецены. *Пышла дзейка, у касу зыпляцёна.* Паўлавічы Клім. *Галоўка зычашона, і касіца зыпляцёна.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ЗЫПРАГІНУЦЬ, *дзеясл.* Загінуць. *Зыпрыпала галоўка мыя, зыпрагінула.* Брылёўка Краснап.

ЗЫПРАГЧЫ́, *дзеясл.* Запрэгчы. *Зыпряжыця кыня, на пруд паехыць нада.* Ушакі Чэрык. *Калісь-то мы служылі прыгон, а цяпер не, ні зыпражэш!* Добрае Мсцісл.

ЗЫПРАКІНУЦЬ, *дзеясл.* Перакінуць. *На што ты стол зыпракінуў?* Палуж Краснап.

ЗЫПРАСІЦЬ, *дзеясл.* 1. Запрасіць, паклікаць. *Зыпрасілі мяне ны вясельле, але німа як пакінуць хату адну і пайці нельга.* Слабада Раснян. 2. Запрасіць (цану пры прадажы). *Таргуйся, татычка, таргуйся, ‖ Ны вялікый цане дзяржыся: ‖ Стаўлёныга горыду зыпрасі.* З нар. песні.

ЗЫПРАСЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Забараніць. *Зыпрасьцілі лавіць рыбу ў рэчцы без дазволу. Суседу зыпрасьцілі пыхаць ляда.* Сохана Мсцісл.

ЗЫПРІГАЦЬ, *дзеясл.* Запрагаць. *Ён стаў рупіцца ехыць, скарей сыбраўсь і стаў кыня зыпрігаць, быяўся, штоб ні спазьніцца.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫПРІУЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Запраўляць (маслам), задабраць. *Зыпріўляй кашу добря, ні жалей масла, хай дзеці ядуць.* Тур'я Краснап.

ЗЫПРІШЧАЦЬ, *дзеясл.* Забараняць. *Зыпрішчаюць сёліта ў лесі пасьціць скот.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫПРЫДАЦЬ, *дзеясл.* Запрадаць, прадаць. *Зыпрыдаў я сваю каноплю яшчэ ў гародзі, а січас хуць сабе купляй: несчыга і пута зьвіць.* Зубоўка Раснян.

ЗЫПРЫПАСЬЦЬ, *дзеясл.* Прапасці. *Зыпрыпала галоўка мыя бедныя, запрагінула!* Брылёўка Краснап. *Вот цяпер жа мы, брацц, ‖ Навек с табой зыпрыпалі: ‖ А й ня будзім, брацц, знаці, ‖ Калі зіма, калі лета.* З нар. песні.

ЗЫПРЫПАШЧЫЙ, *прым.* Прапашчы, пагіблы. *Зыпрыпашчый ён чылавек: ат работы адбіўся і пьець біспрістанку — яго ўжу ніхто ні спасець.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫПРЫШАЦЬ, *дзеясл.* Запрашаць. *Сістра ў госьці зыпрышая. Пішыць, штоб пріехыў на ўсё лета.* Мсціслаў.

ЗЫПРЯГЧЫ́ [запрéгч], *дзеясл.* Запрэгчы. *Зыпрягі-ка вазок, нада зьезьдзіць к свату ў госьці.* Бяседавічы Хоцім. *Зыпряглі пару коні ў адны калёсы, і то ні цягнуць пы такей грязі.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫПРЯ́ТЫЦЦА, *дзеясл.* Схавацца. *Зыпрятыйся ў лог, і ня відна.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫПЫТРАШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Запарашыць, пачаць падаць (пра снег). *Зыпытрашыў сьняжок — буря будзя ноччу.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫПЫХАЦЬ, *дзеясл.* Забаранаваць, заараць. *Запыхала грэчку і паехыла ў двору.* Палуж Краснап.

ЗЫПЫЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Запаяць, заліць. *Нада зыпыяць дзірку ў карцы, ато пычаў цеч — ні пыстаў нідзе.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫПЯЧЫ́ [запéч], *дзеясл.* Запячы. *Зыпікла пічыя, што і рады ні даць!* Парадзіна Мсцісл.

ЗЫПЯКЧЫ́СЬ [запéчца], *дзеясл.* Запекчыся, падгарэць. *Пыстаў бабку ў печ, толькі глядзі, штоб ні зыпіклась на вугыль.* Горка Краснап.

ЗЫРАБІЦЬ, *дзеясл.* Зарабіць. *У нас блізка ні чыгункі, ні рякі німа, і зырабіць нейдзе, хуць ты што хош.* Машавая Бялынкав.

ЗЫРАБОТЫК, -тка, *м.* Заробак. *Мне нечыга шкудуваць, што я ні паехыў у зыработкі, я ў дваре больш зыраблю.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫРАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Зарадзіць [урадзіць]. *Сёліта зырадзіў лён — харошыя наметкі будуць.* Бяседавічы Хоцім. *Бульба ў етым годзі добря зырадзіла.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫРАЗА, -ы, *ж.* Зараза. *С хворым ні варта, рукацца, ато яшчэ зыразы ныбяресься.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫРАНІ, *прысл.* Раней, больш рана. *Трэба зырані рыспалівыць печ, ато сяньні дровы сырэя.* Канічы Касцюк.

ЗЫРАСЬЦІ [заро́сьць], *дзеясл.* Зарасці. *Нада пазычыць у каго матыку ды пуматычыць бульбу, ато ўся йна травою зырысла.* Бяседавічы Хоцім. *І нада ж так градым зырасьці — як лес, зельля павырыстала.* Юркаўка Крыч.

ЗЫРУДЗЯНЕЦЬ, *дзеясл.* Зарудзянець, зрабіцца рудым, брудным. *Зырудзянеў у рабоці.* Буглаёўскі Краснап.

ЗЫРУЧОНЫЙ, *прым.* Заручаны, прасватаны. *Міла мыя дзіцятухна, Што молыда зыручона, ‖ Што молыда зыручона ‖ Чужым людзям аддаджона.* З нар. песні.

ЗЫРУЧЫ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Заручыцца. *Янка з Марыляй ужо заручылісь — скора і свадзьба будзе.* Юркаўка Крыч. 2. Забяспечыцца. *Нада заручыцца яго згодый на ета дзела.* Пацкава Мсцісл.

ЗЫРУЧЭ́НЬНЯ, -я, *н.* Заручэнне, заручыны. *Пысьля зыручэньня іна нейк ніўзьлюбіла яго, глядзець ны яго ня хочыць.* Юркаўка Крыч.

ЗЫРЫБЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Зарабляць. *Нядзелю зырыбляў, а за 'дзін вечыр прапіў.* Іванаўка Хоцім. *Антон казу вядзець, ‖ Пуцмыц — каза ня йдзець, ‖ Антоніха пыгыняіць, ‖ Ны тыбаку зырыбляіць.* З нар. песні.

ЗЫРЯ́, -і, *ж.* Зара. *Зыря зынімаіцца — дзень скора.* Большая Багацькаўка Мсцісл.

ЗЫРЯДЗІЦЬ, *дзеясл.* 1. Зарадзіць, набіць, закласці набой у стрэльбу. *Зырядзіў ружжо дранкулій.* Хвёдараўка Краснап. 2. Пачацца на доўгі час. *Дождж абложный, на цэльный дзень зырядзіў.* Дзіснакіта Мсцісл.

ЗЫРЯ́НКА, -і, *ж.* Заранка, ранішняя зорка. *Зырянка ўзыйшла, значыць, пыра ўстываць.* Лешчынка Мсцісл.

ЗЫРЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Світаць. *Стала ўжо зыряць.* Палуж Краснап. *Прашнуўся я,*

*чую — пітухі пяюць, глянуў у вакно — ужу зыряіць, стаў сьпяшыць, штоб ды дня уйціць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫСАЛІЦЬ, *дзеясл.* Заправіць яду салам. *Масла німа, то хуць зысаль кашу таплёным салым.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫСАЛІЦЬ, *дзеясл.* Засаліць. *Цяперь лета, ні нада жалець солі, зысаліць сала нада паболі, штоб ня спорцілысь.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫСАПЫЦЬ, *дзеясл.* Засапці, захрапці. *Пылядзі-тка, што там такоя, конь нешта зысапыў!* Палуж Краснап.

ЗЫСАРОМІЦЬ, *дзеясл.* Засарамаціць. *Ці ж можна так? Зысароміў дзеўку, што ўся згарела ат сорыму.* Залачэўка Краснап.

ЗЫСАРПЫЦЬ, *дзеясл.* Захрапці. *Коні, як пачулі выўка, ды як зысарпылі.* Куркаўшчына Мсцісл.

ЗЫСІДЛАЦЬ, *дзеясл.* Асядлаць. *Зысідлаў кыня і паехыў недзе.* Юркаўка Крыч. *Зысідлай кыня, || Сьйіжджай з двыра, || Ты ня мой, || Я ні твыя!* З нар. песні, М. Г. 118.

ЗЫСІКАЦЬ, *дзеясл.* Засякаць, зацінаць, рабіць зарубку. *Калі нада прівізаць вярёўку к жэрдзі, то ўсягды нада жэрдзь зысікаць, штоб вярёўка ні сыскаўзывылась.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫСІЛІЦЦА, *дзеясл.* Павесіцца. *Сягоньні чылавек у нас хацеў зысіліцца, ужо гылаву ў пятлю засунуў, ды людзі ўбачылі.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫСІЛІЦЬ, *дзеясл.* Забраць, захапіць. *Ня дзіва, што навільнік зламіўся: засіліў зразу паўвоза гною.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫСКАБІЦЬ, *дзеясл.* Заскабіць, загнаць стрэмку, застраміць. *Я сабе руку зыскабіў.* Кокатава Мсцісл. *Тут мост дужа шурпатый, скыкаць нільзя, нагу зыскабіць можна.* Арцёмаўка Міласл. *Зыскабіў руку, вялікую скабу зыгнаў.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫСКАРОЖЫНЫЙ, *прым.* Заскароджаны, забаранаваны. *Клін мой успахыный і зыскарожыный.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫСКУГОЛІЦЬ, *дзеясл.* Заскавытаць, заплакаць уголас. *Як зыскуголіла дычка пу бацьку: «А мой жа ты татычка, ны каго ты мяне пакідаіш?»* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫСКЫГЫТАЦЬ, *дзеясл.* Заскавытаць, заенчыць. *Ударылі сыбаку, дык ён зыскыгытаў.* Парадзіна Мсцісл.

ЗЫСЛАНІЦЬ, *дзеясл.* Засланіць. *Зысланіла грудзі, і дыхаць некуды.* Гібалы Касцюк. *Сырая зімля дзьвері зылігла, || Выконцы зысланіла.* З нар. песні, М. Г. 16.

ЗЫСЛАНЫЙ, *прым.* Заслааны. *Мыя пасьцеля зыслана, а твыя ў біспырядку.* Палуж Краснап.

ЗЫСЛАЦЬ, *дзеясл.* Заслаць. *Ну як жа гэста спаць на голый саломе — хоць бы пасьцілку дыла зыслаць.* Ушакі Чэрык. *Сталі сыбірацца абедаць: хызяйка зыслала настольнік і стала нырізаць хлеб.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫСЛЫНЯЦЬ, *дзеясл.* Засланяць, зачыняць. *Як едуць у дарогу, дык зыслыняюць печ — каб быў шчасьлівы пуць.* Мсціслаў.

ЗЫСЛЯПЕНЬНЯ, -я, *н.* Засляпенне, асляпенне. *Зысьляпеньня нейкыя найшло ны мяне: гляджу і нічога ні бачу.* Палуж Краснап.

ЗЫСМАЛІЦЬ, *дзеясл.* 1. Засмаліць, заліць смалою. *Лодку зысмаліць нада раньшы, а тады на ваду спускаць, ато цеч будзіць.* Куравічы Мсцісл. 2. Асмаліць, абпаліць (палку). *Быў такей белінькій кіёчык, дык на табе, узяў ды зысмаліў канец, бульбу вымаючы з агню.* Заполле Раснян. 3. Выцяць моцна. *Зысмаліў яму ў вуха.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫСМУТНЕЦЬ, *дзеясл.* Стаць сумным. *Пухуваўшы бацьку, дзеці зысмутнелі.* Палуж Краснап.

ЗЫСМУЦІЦЬ, *дзеясл.* Засмуціць, увесьці ў смутак, сум. *Яго зысмуціць ні так-то лёгка, хоць гылаву яму 'тарві, дык ён усё будзіць сьміяцца — яму і бяды мала.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫСМУЧОНЫЙ, *прым.* Засмучаны. *Што так засмучоны стаў, ці біда якая стала з табою?* Жалезніца Крыч.

ЗЫСПАЦЦА, *дзеясл.* Заспацца, доўга спаць. *Зыспаўся я трошку, нада было раней устаць.* Вербеж Чэрык. *Во ета хызяін рупытлівый — да сонца ўстаніць і дзецям зыспацца ні дасьць.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫСТАВІЦЬ, *дзеясл.* 1. Закласці, аддаць у заклад. *Нечыга ані-ні зыставіць у залог: грошы німа, а выпіць хочыцца.* Слаўнае Мсцісл. 2. Пакінуць. *Абыдраў крупы, а паламкі сабе зыставіў.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫСТАНОЎКА, -і, *ж.* Прыпынак. *На ўсёй дарогі адна толькі зыстаноўка будзіць, пpі піряезьдзі чыряз мост.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫСТАРОНКА, -і, *ж.* Старана, застаронак, частка гумна, дзе зложана збожжа. *Зыстаронкі поўна-поўным набіты хлебым.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫСТАЎКА, -і, *ж.* Застаўка, жэрдка, якою застаўляецца старана, каб не абвальвалася на ток салома. *Пыстаў тут зыстаўкі, ато салома паедзіць на ток.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫСТАЦЦА, *дзеясл.* Застацца. *Во прачка: гразныя пымазы так і зысталісь на кыйняры.* Парадзіна Мсцісл. *Хата згарела, конь здох — ён ужу цяпер навік старцым зыстанецца, ня выб'іцца ён цяперь.* Арцёмаўка Міласл. *Двух хлапцоў вывіў у людзі, а трэцьцій зыстаўсь неук.* Палуж Краснап.

ЗЫСТРЯМІЦЬ, *дзеясл.* 1. Засарамаціць. *Зыстрямілі ныпрясна хлыпца — ён там і ні быў з тымі забойцымі.* Маластоўка Краснап. 2. Застраміць, загнаць стрэмку. *Зыстряміў паліц і стремкі ні выцігну.* Лютня Краснап.

ЗЫСТУДЗІЦЬ, *дзеясл.* Застудзіць. *Дывялося мне зыстудзіць ногі ў мыкрату — цяперь во кышляю і кышляю бісьпрістанку.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫСТУКАЦЕЦЬ, *дзеясл.* Застукацець, загрымець. *Зыстукацеў гром, як на лесьніцы.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫСТУПІЦЦА, *дзеясл.* Заступіцца, стаць на абарону. *За бедныга чылавека і зыступіцца некыму.* Пухнава Раснян.

ЗЫСТУПІЦЬ, *дзеясл.* 1. Запыніць. *Зыступілі ны дарозя і гвалтоўна ўсё да чыста адыбралі.* Журбін Бялынкав. 2. Заступіць на чыё-небудзь месца. *Іван цяпер заступнік мой: зыступіў ны маё месца старшынёю сельсавету.* Пірагова Мсцісл.

ЗЫСТЫВАЦЦА, *дзеясл.* Заставацца. *Усе грошы правёў: зыстывалысь тры рублі, дык і на тыя купіў мыла, і цяпер, хоць зарэж, ні капейкі німа.* Прусіна Касцюк.

ЗЫСТЫГНАЦЦА, *дзеясл.* Замучыцца. *Баба зыстыгналысь ат работы.* Маластоўка Краснап.

ЗЫСТЫНЫЎЛЯЦЬ, *дзеясл.* Прыпыняць. *Калі нада зыстыныўляць пруд, дык нада пыдняць зыставу і пувярнуць улева.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫСТЫЯЦЦА, *дзеясл.* Застаяцца. *Конь зыстыяўся, дык цяперь бяжыць — ня зьдзіржаць.* Меншая Багацькаўка Мсцісл. *Запіўся бел-молыдзіць, || А ён зыгуляўся, || І с краснаю дзеўкаю || А ён зыстыяўся.* З нар. песні.

ЗЫСЫХАЦЬ, *дзеясл.* Засыхаць. *Вясною ны асіні бываіць салодкій мозык, а летум ён зысыхаіць і пріврышчаіцца ў древа.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫСЬВІСТАЦЬ, *дзеясл.* Засвістаць. *Зысьвістаў, як сылавей.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫСЬВІТАЦЬ, *дзеясл.* Пачаць світаць. *Скора зысьвітаіць: валасажэр ужо ўніз апусьціў хвост.* Гібалы Касцюк.

ЗЫСЬЛЯПЕНЬНЯ, *-я, н.* Засляпенне. *Нейкыя зысьляпеньня найшло ны мяне: ты тут стаіш, а я ня віджу.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫСЬМЯДЗІЦЬ, *дзеясл.* Асмаліць, апаліць. *Зысьмядзіў ты свой куптан пры цяпле.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫСЬПІВАЦЬ, *дзеясл.* Заспяваць. *Ужу жаўрынкі зысьпівалі — вісна будзіць.* Касцюковічы.

ЗЫСЬЦІЛАЦЬ, *дзеясл.* Засцілаць. *Явыр расьцець ны балотых, у возірі; ім пылыгаіцца зысьцілаць хаты на духа.* Слаўнае Мсцісл. *Зысьцялі настольнік, абедыць будзім.* Глінь Касцюк.

ЗЫСЬЦІРІГАЦЦА, *дзеясл.* Засцерагацца. *Нада засьцірігацца ат пыжару, чысьціць кымяны, астарожна абрышчацца с агнём.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫСЬЦЯГНУТЫЙ, *прым.* Засцягнуты, зашпілены. *Горя лычкым підпірязына, а мачулычкый зысьцягнута.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ЗЫСЬЦЯГНУЦЬ, *дзеясл.* Засцягнуць, зашпіліць. *Зысьцягнуў кайнер ны запынку.* Сохана Мсцісл.

ЗЫСЬЦЯРЕГА, *-і, ж.* Засцярога, засцераганне. *Вазьмі зысьцярёгу 'т сыбак, во етую палку.* Высокі Бор Краснап.

ЗЫСЬЦЯРЕЧ, *дзеясл.* Засцерагчы. *Каб сусед ні зысьцярег, то пупаў бы я пуд кыня.* Юркаўка Крыч.

ЗЫСЯЧЫ [засéч], *дзеясл.* Засячы. *Маўчы, шэльма, ато скуру спушчу — зысяку на сьмерць!* Мсціслаў. *Чы-чы сарока, || Прілецела здалёка, || Села, пала ны таку, || А пан кажыць: зысяку.* З нар. песні, М. Г. 149.

ЗЫТАМІЦЦА, *дзеясл.* Стаміцца. *Я дужа зытаміўся сёньні.* Палуж Краснап.

ЗЫТАМІЦЬ, *дзеясл.* Стаміць, замарыць. *Пакуль ляда ўспахаў, і сам зытаміўся і кыня зытаміў.* Юркаўка Крыч.

ЗЫТАПІЦЦА, *дзеясл.* Утапіцца, заліцца. *Відзіш ету, адну сабе магілу, у ёй ляжыць утоплінік, летысь ён зытапіўсь.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫТАПІЦЬ, *дзеясл.* 1. Утапіць. *Тут тыкая багна, што я баюсь кыня зытапіць.* Арцёмаўка Міласл. 2. Падпаліць дровы ў печы. *Зытапі-ка пыдасецьця, ды харошымі драўмі, каб жыта ладна высыхла.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫТАШНЕЦЬ, *дзеясл.* Засумаваць. *Дзіцёнык зыташнеў пу маццы.* Палуж Краснап.

ЗЫТРАТА, *-ы, ж.* Затрата. *Ета дарэмныя зытрата і сіл і грошы.* Бабынічы Мсцісл. *Ты яшчэ, акрымя етыга, даўжон уплаціць мне тыя зытраты, што я ны цябе зрасходуваў.* Пірагова Мсцісл.

ЗЫТРАЦІЦЬ, *дзеясл.* Затраціць. *Зытраціў стольки грошы, а што будзець, яшчэ ні знаю.* Высокі Бор Краснап.

ЗЫТРАЎКА, *-і, ж.* Загартоўка. *Зытраўка ў етый касе дрэнныя: толькі навострыш, махнеш тры разы, і зноў нада вастрыць.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫТРІШЧЭЦЬ, *дзеясл.* Затрашчаць. *З усіх бакоў зытряшчэлі пулямёты, дык мы — ходу.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫТРЯСЬЦІСЯ [затрéсца], *дзеясл.* Затрэсціся. *Паджылкі зытрясьліся — так ударыў.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫТУПІЦЦА, *дзеясл.* Затупіцца. *Зытупілыся сусім лязо тыпыра, нада несьць у кузьню ды аттачыць.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫТУПЯНІЦЦА, *дзеясл.* Уперціся, не захацець. *Чылавек (муж) мой зытупяніўся, як бык, і нізашто ні пашоў туды.* Палуж Краснап.

ЗЫТУЎКАНЫЙ, *прым.* Затоўчаны, запраўлены салам. *Зварім мы сяньні зытуўканыю крупеню з салым.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫТЫКАЦЬ, *дзеясл.* Затыкаць. *Дзігвыра справілі такі сквіл, што хуць ты вушы зытыкай.* Добрае Мсцісл. *Зытыкай добра бачурку, штоб выда ні выцікала.* Горкі Краснап.

ЗЫТЫНАЦЬ, *дзеясл.* Затанаць, тапіцца. *Максім бурохтыўся, бурохтыўся ў вадзе, а тады пычаў зытынаць.* Маластоўка Краснап.

ЗЫТЫРБАНІЦЬ, *дзеясл.* Аднесці штонебудзь, што бразкае. *Зытырбаніў ужо блішанку туды.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫТЫЎКАЦЬ, *дзеясл.* Затоўкваць, кідаць у гаршчок затаўку [заправу]. *У нас гывядзіна ёсьць, мы ж бычка свайго резылі, зытыўкаць яшчэ ёсьць чым.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫЎВАЖЫЦЬ, *дзеясл.* Заўважыць. *Я й ні зыўважыў, як ты пыдыйшоў ды мяне.* Гарманава Мсцісл.

ЗЫЎНЫВАЦЬ, *дзеясл.* Засмуткаваць, засумаваць. *Ні варты ён, штоб па ім так зыўнываць.* Ушакі Чэрык. *Ні длі цябе я садзіла, || Жываты рядзіла; || Ні длі цябе пылівала, || Серца зыўнывала.* З нар. песні, М. Г. 151.

ЗЫЎСІГДА, *прысл.* Заўсёды. *Зыўсігда мне ныравіцца езьдзіць трюшком.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫЎСЯГДЫ, *прысл.* Заўсёды. *Найвышшае маё шчасьце — быць зыўсягды з табою.* Пірагова Мсцісл.

ЗЫХАДЗІЦЦА, *дзеясл.* Забадзяцца, загуляцца, нахадзіцца. *Дзе йта ты зыха-*

*дзіўсь? Пітухі прапелі, а цябе ні було.* Б. Хутары Краснап.

ЗЫХАДЗІЦЬ, *дзеясл.* 1. Заходзіць. *Стала зыхадзіць сонца, і куры сыбраліся ны крусоднюю.* 2. Пачаць хадзіць. *Прібыло вады, і кылясо ў прудзі зыхадзіла дужа рухава.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫХАПІЦЬ, *дзеясл.* Захапіць. *Якей ты завідный, увесь сьвет зыхапіў ба!* Хвёдараўка Краснап. *Дыхыньня ў грудзёх зыхапіла.* Сохана Мсцісл.

ЗЫХАЦЕЦЦА, *дзеясл.* Захацецца. *Прысмакый табе зыхацелысь; хлеба з вадой зьеш.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫХАЦЕЦЬ, *дзеясл.* Захацець. *Нечыга табе ка мне руўнуваццa, ты за мной ні пасьпеіш, я зыхачу, дык цябе і зь зямлі згонюць.* Арцёмаўка Мілаcл.

ЗЫХВАРЭЦЬ, *дзеясл.* Захварэць. *Ні хадзі к яму, хвароба гэта вельмі ліпучыя — зыхварэіш і ты.* Ушакі Чэрык. *Ня йдзець яму ў жыцьці: то жонка памёрла, а цяперь і сам зыхварэў.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫХВАТЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Захопліваць, займаць. *Знаць, я прыстудзілысь: колька ў баку, аж дыханьня зыхватывыіць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫХВАЦІЦЬ, *дзеясл.* Захапіць. *Нылііла іна ў чарку атруты і хацела выпіць, ды я во врімя зыхваціў і адыбраў у яе атруту.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫХІСТАЦЦА, *дзеясл.* 1. Захістацца. *Ды таго кароўка зыніпала, што выйшла з пуні і зыхісталысь.* Парадзіна Мсцісл. 2. Завіхацца. *Дарька зыхісталысь дужа кыла работы, спішаіцца скончыць ды бечь на ’каліцу.* Горкі Краснап.

ЗЫХРЯСНУЦЬ, *дзеясл.* Загразнуць, засесці ў гразь. *Зыхряснуў у патопу, што думыў і ні вылізу.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫЦАЛЕЦЬ, *дзеясл.* Уцалець, застацца цэлым. *Піліп неік зыцалеў ны вайне.* Палуж Краснап.

ЗЫЦІВАЦЬ, *дзеясл.* Зацяваць, замышляць. *І што ета ты зыціваіш тут рабіць?* Багацькаўка Мсцісл. *Пысылаіць мыладу ‖ Скрозь ноч пы ваду, ‖ Зыціваіць мыладу ‖ Ды на моры плацьця праць.* З нар. песні, М. Г. 78.

ЗЫЦІГАЦЦА, *дзеясл.* Зацягацца, стаміцца ходзячы. *Я саўсім сяньня зыцігаўся, зы бырынамі на полі ходзячы.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫЦІНЯЦЬ, *дзеясл.* Зацяняць, засціць. *Атыйдзі ат акна, ты заціняіш, і мне плоха відна.* Палуж Краснап.

ЗЫЦІСАЦЬ, *дзеясл.* Зачасаць. *Рыбалка сь цябе, ня ўмеіш кліна зыцісаць, а ня то што рыбу лавіць.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫЦУРУВАЦЬ, *дзеясл.* Зацыраваць. *Зыцуруй мне чулкі.* Кокатава Мсцісл. *У міне ны пітах пырваліся чулкі, нада было зыцурувать, дык лянюся.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫЦЬВІТАЦЬ, *дзеясл.* Зацвітаць, пачынаць цвісці. *Гарох ужо зыцьвітаць пачынаіць.* Юркаўка Крыч.

ЗЫЦЯГНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Зацягнуць. *У вядры маліныкыя дзірка, нада зыцягнуць колысым, дык ня будзіць цеч.* Маляцічы Крыч. *Зыцягні мне нітку ў іголку, бо я ні бачу.* Юркаўка Крыч. 2. Закрыць, завалакчы. *Маёй авечыцы бяльмом зыцягнула ўсё бечка.* Брылёўка Краснап.

ЗЫЦЯЖКА, -і, *ж.* Зацяжка [завінаваchaнасць]. *Я ж дзевіць гадоў плачу, і зыцяжкі німа.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЫЦЯЦЬ, *дзеясл.* Заццяць [перастаць гаварыць, змоўкнуць]. *Калі скызалі праўду ў вочы, дык яму й зыцяло гывырыць.* Маластоўка Краснап.

ЗЫЦЯЧЫ [зацеч], *дзеясл.* Зацячы, падмокнуць. *Абкыпаць капцы трэба, бо картошка зыцячы можыць.* Зарэчча Мсцісл. *Мы пыставілі снапы ў ababкі і пынакрывалі — ні зыцякуць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫЧАПІЦЦА, *дзеясл.* Зачапіцца. *Ён дасужліва атчыніў дзьверы і вывіў яе на двор, кажучы — ні зычапісь.* Ушакі Чэрык. *Зычапіўся за пень і атосы ’бырваў.* Юркаўка Крыч.

ЗЫЧАПІЦЬ, *дзеясл.* Зачапіць [закрануць.] *Во, румза! Ужо плача—ні зычапі!* Старае Сяло Мсцісл. *Ён нікога ні мінець, штоб ні зычапіць: то ўшчыпнець, то ўдарыць ці абругаіць.* Бяседавічы Хоцім. *Нада зычапіць пачопку ў вядро, ато вады прынесьць німа як.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫЧАРЕПНУЦЬ, *дзеясл.* Зачарпнуць. *Я зычарепнула карцом вады і пыдыла бацьку.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЫЧАЦЬ, *дзеясл.* Пачаць. *Прыстаў зычаў біць мужыкоў.* Палуж Краснап.

ЗЫЧВЯКЫЦЬ, *дзеясл.* Зачмякаць. *Зычвякылі, еўшы, як пырісяты.* Лютня Краснап.

ЗЫЧЛІВЫЙ, *прым.* Зычлівы. *Мыя маці зычлівыя — іна табе ніколі плахога слова ні скажыць.* Гусарка Клім.

ЗЫЧЛІВЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Зычлівасць. *Знаю я тваю зычлівысьць; ты, штоб прымеў, то ў ложцы вады ўтапіў бы мяне.* Юркаўка Краснап.

ЗЫЧНА, *прысл.* Гучна, зычна. *Гукаіць зычна, быццам у лесі.* Залачэўка Краснап.

ЗЫЧЫНІЦЬ, *дзеясл.* Зачыніць. *Я стану ны калодку, а ты пыдай мне юшку, нада комін зычыніць, ато хлеб у печы ні сьпякецца.* Арцёмаўка Міласл. *Зычыні сьвіней у сьвінарнік.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫЧЫНЯЦЬ, *дзеясл.* Зачыняць. *Зычыняй скарей вокны, туча находзіць.* Слаўнае Мсцісл. *Ідзі ў нашы дошкі, толькі зычыняй тады.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЫЧЫРВАНЕЦЦА, *дзеясл.* Зачырванецца, пачырванець. *Сідырь зычырьванеўсь, як пумянулі зы пытряву.* Залачэўка Краснап.

ЗЫЧЫРКНУТЫЙ, *прым.* Зачыркнуты, закасованы [закрэслены]. *Етыга зычыркнутыга ня чытай!* Пірагова Мсцісл.

ЗЫЧЫРКНУЦЬ, *дзеясл.* Зачыркнуць, закасаваць напісанае [закрэсліць]. *Сьпірва ныпісаў, а пысьля падумыў і зычыркнуў, што ныпісаў.* Маляцічы Крыч.

ЗЫЧЫТАЦЦА, *дзеясл.* 1. Зачытацца, шмат часу аддаць на чытанне. *Ты зычытаўсь зы целый дзень, хоць ба па коні схадзіў — бацьку некылі.* Юркаўка Крыч. 2. Пачаць чытаць. *Сыма церкыўка рышчынілыся, ‖ Самі званы зызваніліся, ‖ Самі сьвечычкі*

*зыпаліліся,* || *Самі кніжычкі зычыталіся.* З нар. песні, М. Г. 69.

ЗЫ́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Зычыць, жадаць. *Я дыбра яму зычу, а ён чортам глядзіць.* Гібалы Касцюк. *Ня зычыць ён табе шчасьця.* Слаўнае Мсцісл. *Іван мне зла зычыць, хочыць, штоб я саўсім прыпала.* Гусарка Клім.

ЗЫШКВА́РІНЫЙ, *прым.* Засквараны, задобраны салам. *Сяньні крупеня зышкваріныя, мяса ні дыстала.* Краснаполле.

ЗЫШКВА́РІЦЬ, *дзеясл.* Заскварыць, задобрыць падсмажаным салам. *Мала ты кашу зышкваріла.* Залачоўка Краснап.

ЗЫШПАНДО́РЫЦЬ, *дзеясл.* Моцна выцяць. *Лоўка ты яму зышпандорыў поўху!* Краснаполле.

ЗЫШУКА́ЦЦА, *дзеясл.* Зашукацца, доўга шукаць. *Маці цябе там зышукалыся, а ты сядзіш тут — бяжы ды хаты.* Вярбоўка Раснян. *Пріехыла Хадоска с-пыд вінца,* || *Зышукалыся грібінца.* З нар. песні, М. Г. 19.

ЗЫШЧАМІ́ЦЬ, *дзеясл.* Зашчаміць. *Пыставілі пасытку ны выўка, дык пупаўся сыбака лапыю, яму лапу і зышчаміла.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЫШЧАПІ́ЦЦА, *дзеясл.* Зашчапіцца, зачыніцца. *Чаго ты ў хаці зышчапіўся і нікога ні пускаіш?* Маластоўка Краснап. *Эйш, зышчапіўсь адзін у хаці! Атшчыпі-тка крючок, ато дзьверы ўзлымаім.* Палуж Краснап.

ЗЫШЧАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Зашчапіць, зачыніць дзверы на кручок. *Матка наныч зышчапіла дзьверы.* Палуж Краснап. 2. Шмат забраць. *Рыўка ў етым дзелі быгата зышчапіла грошый.* Там жа.

ЗЫШЧЫКЫТА́ЦЬ, *дзеясл.* Зашчакатаць, заласкатаць. *Ні хадзі ноччу поўз рякі — русалкі зышчыкытаць могуць.* Высокі Бор Краснап.

ЗЫЮШЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Заюшыцца, аддаць усю ўвагу чаму-небудзь. *Так зыюшылась зы работый, што ні ўгледзіла, як сьвіньні ў грады залезьлі.* Пірагова Мсцісл.

ЗЫЯВІ́ЦЦА, *дзеясл.* З'явіцца. *Нізьвесна, аткуль зыявіўся.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЬБЕ́ГЛЫЙ, *прым.* Збеглы. *Прыблудзіўся к нам нейкі зьбеглы сыбака.* Добрае Мсцісл.

ЗЬБЕ́ГЫЦЬ, *дзеясл.* Збегаць. *Зьбегый, хлопча, прынясі вады с крыніцы, вунь пыд тым каменем.* Іміркі Раснян. *Пакуль ты адыхнеш, дык я тым часым зьбегыю двору.* Лешчынка Мсцісл.

ЗЬБІВА́ЦЦА, *дзеясл.* Збівацца. *Ігліца — ета гваздок, якім зьбіваюцца дзьверы.* Пухнава Раснян.

ЗЬБІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Збіваць. *Табе купляць ні нада і ні мішай — чылавек купіць хочыць, а ты цану зьбіваіш.* Каробчына Мсцісл.

ЗЬБІНТЭ́ЖЫЦЦА, *дзеясл.* Збянтэжыцца, збіцца з тропу. *Ці ты зьбінтэжыўся? А няго ж, задурылі чыста гылаву, абступіўшы.* Янава Раснян.

ЗЬБІРА́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Збірацца, зыходзіцца ў грамаду. *Кожны вечыр сіляне зьбіраюцца к нашай хаце і сідзяць ны зыгувальні.* Смолькаўская Буда Бялынкав. *Глянь, туча зьбіраіцца — грябі скарей сена, ато намочыць.* Арцёмаўка Міласл. 2. Збірацца, рыхтавацца. *Зьбіраюцца кросны ставіць, дык у хаце ніпырадкі.* Парадзіна Мсцісл. *Што ты так глядзіш ны мяне ўлякліва — усіроўна, як я зьбіраюсь цібе зьесьці.* Ушакі Чэрык. *Зьбірайся ды едзь, Іван, ато к поізду ні пасьпееш.* Канічы Касцюк.

ЗЬБІРА́ЦЬ, *дзеясл.* Збіраць. *Як бразнуў міску 'п пол, дык і чыряпкоў ні зьбяреш.* Хвёдараўка Краснап. *Трылісьнік бабы таксама зьбіраюць на лікарствы, толькі ня ведыю навошта.* Пірагова Мсцісл.

ЗЬБІ́ТЫЙ, *прым.* Збіты. *Дзьверы зьбіты іглiцамі.* Пухнава Раснян.

ЗЬБІ́ЦЦА, *дзеясл.* Зблудзіць. *Ішоў ноччу ды з дарогі зьбіўся і залез у балота.* Старае Сяло Мсцісл. *Беліныкій малойчык,* || *Аб чом зыжурыўся:* || *Ці валы прісталі,* || *Ці з дарогі зьбіўся.* З нар. песні, М. Г. 117.

ЗЬБІ́ЦЦА З ПЫНТАЛЫ́КУ. Збіцца з тропу, страціць здольнасць звязна мысліць. *Зьбілыся з пынталыку і ні 'дкызала.* Тарашчына Мсцісл.

ЗЬБІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Збіць, змацаваць. *Рыскалолісь ночвы, нада зьбіць ці хуць зьвізаць, ато неўчым і плацьця памыць.* Пячонкі Раснян. 2. Збіць, набіць. *Рыгора на кірмашы зьбілі на горкі яблык, ледзь двору дайшоў.* Мсціслаў. 3. Збіць (масла). *Зьбіла троху масла, дык людзям і таго завідна.* Там жа. 4. Збіць б'ючы, аддзяліць. *Кідый палкыю, кідый, ледзь адну грушу зьбіў.* Затоны Раснян.

ЗЬБІ́ЦЬВІНЫ, -ін, -аў, *мн. л.* Каласкі жыта, што адбіваюцца пры малацьбе. *Згарні ў кучу зьбіцьвіны, а ўвечыры каню зынясеш.* Горкі Краснап.

ЗЬБЯЗУ́МІЦЬ, *дзеясл.* 1. Звесці з розуму. *Дзеўка зьбязуміла хлыпца!* Самацевічы Касцюк. 2. Здурэць, звар'яцець. *Ён зьбязуміў, і яго пывязьлі ў Мыгілёў.* Радзілёў Краснап.

ЗЬБЯНТЭ́ЖЫНЫЙ, *прым.* Збянтэжаны. *Кыла яго ўсі сьмяюцца, а ён стаіць зьбянтэжіный.* Лютня Краснап.

ЗЬБЯНТЭ́ЖЫЦЦА, *дзеясл.* Ашалець, звар'яцець. *Сыбака наш зьбянтэжыўсь — застрэліць нада, ато пыкусаіць каго.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЬБЯНТЭ́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Збянтэжыць. *Пірістаньце, зьбянтэжылі хлыпца, той ні ведыя, каго слухыць.* Высокі Бор Краснап.

ЗЬВЕ́ДЫЦЬ, *дзеясл.* Даведацца, дазнацца. *Трэба зьведыць, ці паедзіць Іван наныч у поля.* Канічы Касцюк.

ЗЬВЁЗДЫЧКА, -і, *ж.* Зорка. *На небі ніводнэй зьвёздычкі ня відна.* Меншая Багацькаўка Мсцісл. *Ат месічка, брацiц,* || *Табе відніцька будзіць;* || *Ат зьвёздычык, брацiц,* || *Табе весіла будзіць.* З нар. песні, М. Г. 131.

ЗЬВЁЗКА, -і, *ж.* Вапна. *Не саветую купляць у Якуба зьвёзку, яго зьвёзка плыхая.* Канічы Касцюк.

ЗЬВЕРАБО́Й, -ю, *м. бат.* Зверабой, трава. *Зьверабой расьцець на межах, цьвіцець жосткім жоўтым цьветым з круглаю сярэдзінкаю.* Пірагова Мсцісл. *На гэтай аблозі расьце многа зьверабою.* Сохана Мсцісл.

ЗЬВЕ́РСТВА, -а, *н.* Зверства, дзікунства. *Гэтый чылавек пакызаў многа зьвер-*

*ства: ці мала нявінных людзей ён забій.* Сохана Мсцісл.

ЗЬВЕ́РХУ, *прысл.* Зверху. *Скулупаў зьверху зюм, а ўсё сьцінуў.* Парадзіна Мсцісл. *Нывярні камінь зьверху, каб кряпчэй було.* Палуж Краснап.

ЗЬВЕ́РЬ, -я, *м.* Звер. *Етый чылавек усё ройна як зьвер лютый.* Гібалы Касцюк. *Удайні людзі жылі ўсё ройна, як зьвері.* Лешчынка Мсцісл.

ЗЬВЕ́РЬХУ, *прысл.* Зверху. *Капуста стаіць у цёплым месьці, дык зьверьху заплесьнівіла.* Арцёмаўка Міласл. *Пыдыспадым у сундуку ліжалі кралі, а зьверху адзежа.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЬВЕ́СНА, *прысл.* Вядома. *Зьвесна, што ў маткі луччы, чым у сьвякрові.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЬВЕСЬЦЬ, *дзеясл.* Звесці. *Судырга зьвіла мне нагу.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЬВЕ́СЬЦІСЯ [зьве́сца], *дзеясл.* Звесціся, прапасці. *Нашчэнт зьвёўсь бенны хлопіц за гэсты месіц.* Ушакі Чэрык.

ЗЬВЕСЬЦЬ, -і, *ж.* Вестка. *Німа 'б ім ніякае зьвесьці.* Маластоўка Краснап.

ЗЬВІВАЦЦА, *дзеясл.* Звівацца, скручвацца. *Вярёўка намокла і зьвіваіцца.* Гарадзец Міласл. *А зьвійся, зьвійся хмель с айсом, ‖ А зьлюбійся, зьлюбійся зяць са тсьцём.* З нар. песні, М. Г. 49.

ЗЬВІЗАЦЦА, *дзеясл.* Звязацца. *Дзейкыюць людзі, што йна зьвізалыся зь ім.* Брылёўка Краснап.

ЗЬВІЗАЦЬ, *дзеясл.* Звязаць. *Усі бярёзкі пыаблымалі, нейдзі веніка зьвізаць.* Добрае Мсцісл. *Ганна зьвізала пруткамі панчохі.* Малюшын Краснап. *Дай ты свабоду дзіцяці, на што ты яго зьвізала етык туга?* Стары Дзедзін Міласл.

ЗЬВІЗДА́, -ы, *ж.* Зорка. *Зьвізда вячэрнія ўзыйшла.* Крычаваткі Расням.

ЗЬВІНЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Звінець. *Кінь бразкаць, ато аж у вушах зьвініць.* Добрае Мсцісл. *Лес рубяць, аж тыпары зьвіняць.* Мацутаўка Расням.

ЗЬВІНЧАЦЦА, *дзеясл.* Звянчацца, павянчацца. *Ім нада яшчэ зьвінчацца, ато яны толькі зыпісаліcь у сільсавеці, ды так нівінчаныя і жывуць.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЬВІРАЦЦА, *дзеясл.* Звярацца, правярацць. *Нада ўсягды кыла ка́сы зьвіраццa, ці ўсі грошы палучыў.* Пірагова Мсцісл.

ЗЬВІРЫНЯ́ТКА, -і, *н.* Зверанё. *Сын твой — зьвірынятка: насупіўсь і ні глядзіць.* Палуж Краснап.

ЗЬВІХ, -у, *м.* Звіх, вывіх. *У мяне зьвіх нагі.* Хвёдараўка Краснап. *Бабка мыя знаіць зыгавор ат зьвіху, ат зьмяі і йшчэ шмат.* Зубаўка Расням.

ЗЬВІХНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Звіхнуць, вывіхнуць. *Я йшоў ды неік сьхіснуўсь і нагу зьвіхнуў.* Канічы Касцюк.

ЗЬВІЦЦА, *дзеясл.* Звіцца, завіцца. *Харошыя жыта ў яго зырадзіла: ён летась пыраспыхаў ляды, дык яно (жыта) аж у пукі зьвілось.* Пірагова Мсцісл.

ЗЬВІЦЬ, *дзеясл.* 1. Звіць. *Нада зьвіць новыю супоню, ато етыя ўся рызмыталысь.* Ташна Клім. *Дзед зьвіў мне новыя аборы.* Бязводзічы Мсцісл. 2. Зрабіць гняздо. *Буцяна зьвіла гняздо ў Рыгора на пуні.* Мышкі Расням. *Ластыўка зьвіла гняздо ў самым вільчыку.* Дрыбін.

ЗЬВЯ́ГА, -і, *ж.* Звяга, назола. *Во ўжо зьвяга, прічапіўся, дык ніяк ні атлезіш.* Слаўнае Мсцісл. *Воўк сыбакі ні баіцца, ды зьвягі ня любіць.* Прыказка.

ЗЬВЯГЛІ́ВЫЙ, *прым.* Звяглівы, брахлівы (пра сабак). *Сыбака малэй, а якей зьвяглівэй.* Тульдава Расням.

ЗЬВЯГЛІ́ВЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Звяглівасць, сварлівасць. *Мамка, дос табе лезьці ка мне! Што я ні зраблю — усё табе ня добра: абрыдла мне ўжо твыя зьвяглівысьць.* Ушакі Чэрык.

ЗЬВЯ́ЗКА, -і, *ж.* Вязанне. *Зыхваці саломы для зьвязкі грэчкі.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЬВЯ́ЗЫВАЦЬ, *дзеясл.* Звязваць, вязаць. *Вярёўка пырвалысь, зьвязывыць нада.* Малюшын Краснап. *Дзелый таўшчэй перівізьні і крепчы зьвязывай снапы.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЬВЯЗЬЦІ́, *дзеясл.* Звезці. *Спасіба таму пыязду, што зьвязьлі з двыра глымазду.* Меншая Багацькаўка Мсцісл. *Усё жыта зьвязьлі да дожджу ў пуню.* Немерка Расням.

ЗЬВЯКУВАЦЬ, *дзеясл.* Звекаваць, пражыць да смерці. *Мы тут радзіліcь, тут і зьвякуім — нікуды ні паедзім.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЬВЯЛЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Загадаць, аддаць загад. *Савет зьвялеў даць пяць падводыў.* Палуж Краснап.

ЗЬВЯ́НУЦЬ, *дзеясл.* Звянуць. *Пыстаў цьвяты ў ваду, ато яны зьвянуць.* Немерка Расням. *Ня бось, ня бось, Мар'ічка, ні зьвяніць, ‖ Калі мыя мамычка зыгляніць.* З нар. песні, М. Г. 35.

ЗЬВЯР'Ё, -я, *н.* Звяр'ё. *Ну і німярэч жа тут! Толькі зьвяр'ю і вадзіцца.* Лешчынка Мсцісл.

ЗЬВЯРНУ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Вярнуцца. *Наша сыбака зьвярнулысь удвору: дужа іна абвыкшая к нам.* Дзіснакіта Мсцісл. *Жнеі зьвярнуліcь с поля.* Сохана Мсцісл. 2. Абярнуцца, паглядзець. *Падумаіш, упікальнічык знайшоўся! Ты ны сябе перве зьвярніся!* Пірагова Мсцісл.

ЗЬВЯРО́НЫК, -нка, *м.* Звярок, зверанё. *Пуўлючок пызіраець, як зьвяронык.* Палуж Краснап. *Нашлі ў лясу вуўчунка, прінясьлі ўдвору, дык скызаў бы зьвярёнык: глядзець ня хочыць, а к рукам нізашто ня йдзець.* Слаўнае Мсцісл. *Зьвярёнык нейкій пупаўсь у кыпкан, такей харошый і ніжывэй.* Цівецкая Краснап.

ЗЬВЯРНУ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Вярнуць. *Ці можна ета адыслаць кніжку, што мне выслалі, і ці зьвярнуць грошы.* Мсціслаў. 2. Скласці віну на другога. *Хадорка сыма ета зрабіла, а зьвярнула ны брата.* Палуж Краснап. 3. Збіць набок. *Як дам у морду, дык і санкі зьвярну.* Гібалы Касцюк. 4. З'ехаць, павярнуць. *Конь зьвярнуў з дарогі ў жыта, а хызяін сьпіць ны калёсых і ні чуіць.* Шыркі Расням.

ЗЬВЯРЦЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Скруціць. *Ні пасьпеў пыпяроскі зьвярцець, як ён прышоў.* Машавая Бялынкав.

ЗЬВЯСЬЦІ [зьвесьць], *дзеясл.* 1. Звесці, ахапіць сударгаю. *Я сяньні ледзь ні заліўся: купаўся, а мне ногі зьвяло, што ні магу пышывяліць.* Хвёдараўка Краснап. 2. Зрабіць, наладзіць. *Тывырышкі паміж сабой зьвялі плёткі.* Бродкі Крыч. 3. Навесці на дурныя ўчынкі. *Латрыга етый і майго хлыпца зьвёў.* Палуж Краснап. 4. Укрaсці. *У нас цяпер вароў рызьвялось: штонач то ў аднаго, то ў другога ці кыня, ці карову зьвядуць.* Пірагова Мсцісл. 5. Самкнуць (вочы). *Толькі вочы зьвёў, аж раптым нехта стучыць у варсты.* Палуж Краснап.

ЗЬГІНАЦЦА, *дзеясл.* Згінацца, нагінацца. *Баліць так сьпіна, што нільзя зьгінацца, каб што ўзяць зь зямлі.* Сохана Мсцісл.

ЗЬГІНАЦЬ, *дзеясл.* Згінаць, нагінаць. *Я буду зьгінаць ляшчыну, а ты стань вунь на тэй пень, дык дыстаніш арехі, што сідзяць ны макушкі.* Немерка Раснян.

ЗЬГІНУЦЬ, *дзеясл.* Згінуць. *З тыя нядзелі пачну абкутываць мыладыя дрэвы, ато яны зьгінуць узімку.* Каробчына Мсцісл. *Адважны нідзе ня зьгіне.* Папоўшчына Мсцісл.

ЗЬДЗЕДЗІЦЦА, *дзеясл.* Здзедзіцца, зрабіцца дзедам, састарэць. *Ты ўжо зьдзедзіўся саўсім, скора пяцьдзісят год будзіць, а ня жэнісься ўсё.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЬДЗЕІЦЦА, *дзеясл.* Здарыцца. *Што зь ім магло зьдзеіцца там, што ён так доўга ня едзіць, можа кыня ў яго там укралі?* Арцёмаўка Міласл.

ЗЬДЗЕК, -у, *м.* Здзек. *Ета ж зьдзек над сілянскай душой.* Вербеж Чэрык. *Цярпелі людзі зьдзек ад пана, а січас до, будзя ўжо!* Сохана Мсцісл.

ЗЬДЗЕКАЦЦА, *дзеясл.* Здзеквацца, балавацца. *Вера ня есьць, а толькі зьдзекаіцца. Сядзі зы сталом ціха, ня зьдзекайся.* Гібалы Касцюк.

ЗЬДЗЕЛКА, -і, *ж.* Работа, выкананне работы. *Якая добрыя зьдзелка ў етым сундуку.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЬДЗЕЛЫЦЦА, *дзеясл.* Зрабіцца, стаць. *Посьлі дождж ны лагу зьдзелылыся тыкая пытапеча, што ня вылізіш.* Слаўнае Мсцісл. *Памешкі зьдзелыліс у кросных.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЬДЗЕЛЫЦЬ, *дзеясл.* Зрабіць. *Дзед сагнуў мне дужку і зьдзелыў стрялу.* Шарэйкі Касцюк. *Зьдзелый хату зь лібяды, ‖ Ды ў чужую ні вядзі. ‖ Чужа хата ні свыя, ‖ Будзіць біці гультыя.* З нар. песні, М. Г. 153.

ЗЬДЗЕРЖКА, -і, *ж.* Устрыманасць, вытрымка. *У яго бытьшая зьдзержка, штоб на другога, то зубы набіў бы, а ён спакойна ўладзіў.* Боханы Росл.

ЗЬДЗЕРЖЫНЫЙ, *прым.* Устрыманы. *Ныпаў ён ны зьдзержыныга чылавека, ато бы пулучыў аплявуху за свой язык.* Трубільня Краснап. *Ён дужа зьдзержыный, другей раз ужу во, відна, што кіпіць ад злосьці, а нічога дренныга ні скажыць, ня то што біць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЬДЗЕРЖЫЦЦА, *дзеясл.* Устаяць (пра пагоду). *Усе етыя дні дождж ліў, а сяньні пагода зьдзержылыся.* Палуж Краснап.

ЗЬДЗІВІЦЦА, *дзеясл.* Здзівіцца. *Прицьвірязіўшысь трохі, ён зьдзівіўся, якім чыным пупаў сюды.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЬДЗІКАЦЦА, *дзеясл.* Здзекавацца. *Грех табе так зьдзікацца над скацінаю.* Сохана Мсцісл. *Нашто ты над хлебым зьдзікаісься?* Радзілёў Краснап. *Пупаў малое дзіцё ды зьдзікаісьсі?* Парадзіна Мсцісл.

ЗЬДЗІМЛЯНУЦЬ, *дзеясл.* Ударыць. *Як зьдзімлянуў яго, дык ён наўцёкі.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЬДЗІМЯЛІЦЬ, *дзеясл.* Ударыць. *Трэба яго зьдзімяліць палкый пу баку.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЬДЗІРЖАЦЦА, *дзеясл.* Стрымацца. *Ён рысьсьміяўся, дык яму крічаць, штоб ён змоўк, а ён ня можыць зьдзіржацца, рот рукою заткнуў, давіцца, а ўсё сьмяецца.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЬДЗІРЖАЦЬ, *дзеясл.* Стрымаць. *Ня мог кыня зьдзіржаць, ён і панёс з гары.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЬДЗІУБАЦЬ, *дзеясл.* Здзяўбаць, здзяўбці. *Пакліч кур, ніхай зьдзіўбаюць крошкі, што пырассыпаў пы хаці.* Гарадок Раснян.

ЗЬДЗЯЛЕЦ, -а, *м.* Чалавек, што ўмее рабіць справу. *Сьмела йдзі к етыму аблыкату: добрый зьдзялец зь яго.* Тур'я Краснап.

ЗЬДЗЯЛУХА, -і, *ж.* Працавітая жанчына. *Чаму ні жаніцца на Ганцы, рэдкыя зьдзялуха зь яе!* Б. Хутары Краснап.

ЗЬДЗЯЦІНІЦЦА, *дзеясл.* Упасці ў дзяцінства, зблазнавацца. *Пыхварэў трохі, дык зусім зьдзяцініўся: нічым яму ні ўладзіш.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЬДЗЯЦІНЬНІЧЫЦЬ, *дзеясл.* Зблазнаваць. *Што ты зьдзяціньнічыіш, што малэя дзіцё?* Хвёдараўка Краснап.

ЗЬЕЗД, -а, *м.* З'езд. *Трэба абраць дзілігатыў на зьезд.* Сохана Мсцісл.

ЗЬЕЗЬДЗІЦЬ, *дзеясл.* З'ездзіць. *Пурупіла яму чаго-та зьезьдзіць туды, ды ўсё нічас.* Палуж Краснап. *Раз і мне дывялося зьезьдзіць у нашу сталіцу — Менск.* Слаўнае Мсцісл. *Я буду мішаць, а ты зьезьдзі прівязі жыта.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЬЕСЦІ, *дзеясл.* З'есці. *Я хачу зьесьці сыракваншы.* Баеўка Крыч. *Зьеш троху сьцігна.* Бялішчына Мсцісл. *Што ты так глядзіш ны яго пужліва — ён жа ні воўк, ні зьесьць.* Ушакі Чэрык. *Зьясі дзісятык яец, дык як налембік усё пірягоніць.* Палуж Краснап. *Усю капусту коні зьелі.* Куркаўшчына Мсцісл.

ЗЬЕХЫЦЦА, *дзеясл.* З'ехацца. *Атусюль зьехыліс людзі, з усіх канцоў сьвету.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЬЕХЫЦЬ, *дзеясл.* З'ехаць, ссунуцца. *Агашнік пырваўсь, і штаны зьехылі.* Шыркі Раснян. *Пылянь-ка, у яго хутка каток з восі зьедзіць!* Ушакі Чэрык.

ЗЬЕЧЫЦЦА, *дзеясл.* Сагнуцца. *Як ён зьёчыўся — страшна сагнула ўсяго!* Хвёдараўка Краснап.

ЗЬЗЯБНУЦЬ, *дзеясл.* Змерзнуць. *Дайця 'багрэцца, я дужа зьзяб.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЬЗЯЦЬ, *дзеясл.* Ззяць, ярка блішчэць. *Пылянь, што ета там зьзяіць у гразі?* Гусарка Клім.

ЗЬІЖДЖАЦЬ, *дзеясл.* З'язджаць, ссоўвацца. *Пыдцяні тужэй падпругу, ато сідзёлка зьіжджаіць набок.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЬЛЕГЧЫЦЬ, *дзеясл.* Зрабіць палёгку. *Быльшая табе, бабка, пыдзяка, што ты зьлегчыла мяне сваімі прыхымыцьмі.* Добрае Мсцісл.

ЗЬЛЕПЛЕНЫЙ, *прым.* Злеплены. *Яна зьлеплена з гліны.* Іванаўка Хоцім.

ЗЬЛЕСЬЦІ, *дзеясл.* Злезці. *Старому трудна і с печы зьлесьці.* Гарадок Расњян. *Зьлесь ты ны 'бараджу ды дыстань яблыкаў.* Баеўка Крыч.

ЗЬЛЕТАЦЬ, *дзеясл.* Хутка збегаць. *Іш, прыткей якей: ураз зьлётаў, адна ныга тут, другая там.* Парадзіна Мсцісл.

ЗЬЛІЗАЦЬ, *дзеясл.* Злізаць. *Нымазыла я мыслым хлеба і дыла яму, а ён масла зьлізаў, а хлеб пылажыў на слоніц.* Гарадок Расњян. *Сам кухар пячонку зьлізаў, ‖ Ны мяне, коціка, скызаў.* З нар. песні, М. Г. 146.

ЗЬЛІПАЦЦА, *дзеясл.* Зліпацца. *Так хочыцца спаць, што самі вочы зьліпаюцца.* Палуж Краснап.

ЗЬЛІХЧАНЫЙ, *прым.* Вылегчаны, кастрыраваны. *У вас кыбанчыкі зьліхчаны?* Кокатава Мсцісл.

ЗЬЛІХЧАЦЬ, *дзеясл.* Злягчаць, скастрыраваць. *Кыбанчыка зьліхчалі, ды нешта ён есьці ні ўзяў — каб ні здох чысамі?* Палуж Краснап.

ЗЬЛІЦЬ, *дзеясл.* Зліць. *Зьлі мылако ў ладышку.* Ясень Краснап. *З скывырады жыр нада зьліць у слоечык.* Палуж Краснап.

ЗЬЛІШНА, *прысл.* Добра, як найлепей. *Як зьлішна ляжыць ны табе пальто — улілось проста!* Ушакі Чэрык.

ЗЬЛЮБІЦЦА, *дзеясл.* Пакахацца, пакахаць адзін аднаго. *Ганка з Міколый зьлюбілісь, што адзін біз аднаго жыць ні могуць.* Ясень Краснап.

ЗЬЛЮЧЫЙ, *прым.* Злосны, злы. *Ні чыпайся зь етым дурнім, ён зьлючы, паб'ець.* Бялынкавічы.

ЗЬЛЯКНУЦЦА, *дзеясл.* Спалохацца, спужацца. *Ты так быстра скызаў, што я аж зьлякнуўся.* Бародзькава Крыч. *Мой хлопчык як зьлякнуўся сыбакі, дык ат етыга і хвареіць, нада звадзіць к дзеду, каб выкычыў.* Слаўнае Мсцісл. *Ён дужа зьлякнуўся, як душа ня выскачыла.* Б. Хутары Краснап.

ЗЬЛЯПІЦЬ, *дзеясл.* Зляпіць. *Зь сьнегу Міхась зьляпіў бабу.* Шарэйкі Касцюк.

ЗЬЛЯЦЕЦЬ, *дзеясл.* 1. Зляцець. *Варона з страхі зьляцела.* Гарадок Расњян. 2. Упасці. *Блюдзька зьляцела сы стыла і раскокылыся.* Палуж Краснап.

ЗЬМЕНА, -ы, *ж.* Змена, абмен. *Куваль узяў мае шыны, а на зьмену даў свае.* Палуж Краснап.

ЗЬМЕРЗНУЦЬ, *дзеясл.* Змерзнуць. *Надзень шубку, як ны нашлег паедзеш, ато зьмерьзніш.* Арцёмаўка Міласл. *Абгарні ты яе сваёю хусткаю цёплаю, ато зьмерзніць.* Пірагова Мсцісл.

ЗЬМЕСЬЦІЦЦА, *дзеясл.* Змясціцца. *Ні глядзі, еж ды дна — зьмесьціцца ўсё.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЬМЕСЬЦЬ, *дзеясл.* Змесці. *Азадзьдзе нада зьмесьць у адну кучу.* Лешчынка Мсцісл.

ЗЬМЕЦІЦЬ, *дзеясл.* 1. Сцяміць, здагадацца. *Саўка зьмеціў, у чым тут дзела.* Палуж Краснап. 2. Ахапіць вокам, прыкінуць на вока. *Я зьмеціў, што там ня большы соткі.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЬМІЛУВАЦЦА, *дзеясл.* Змілавацца, злітавацца. *Зьмілуйся ныд намі — дзеці сіроты.* Мсціслаў.

ЗЬМІЛЫВАНЬНЯ, -я, *н.* Літасць. *Ат такога зьмілываньня пыдальшы, ато ні пыздаровіцца.* Гарадок Расњян.

ЗЬМІРНЫЙ, *прым.* Спакойны, рахманы. *Ён зьмірный хлопіц, зь ім жыць можна.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЬМІШЧАЦЬ, *дзеясл.* Змяшчаць. *Накупілі быгата, куды толькі зьмішчаць будзім, у нашы сані ні зьмясьціцца ўсё.* Касцюковічы.

ЗЬМІЯ, -і, *ж.* Змяя, вужака, гадзіна. *Зьмія ўкусіла, трэба кроў выкытаць.* Лютня Краснап.

ЗЬМЯІНЫЙ, *прым.* Змяіны. *Ны масту я нашоў зьмяіный выпыўзак.* Пяскоўка Мсцісл. *Кажуць, калі ўкуся зьмяіныя кызяўка, дык памрэш.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЬМЯКНУЦЬ, *дзеясл.* Змокнуць. *Бяжы скарэй двору, ато ноды дождж, дык зьмякніш.* Куркаўшчына Мсцісл.

ЗЬМЯКНУЦЬ, *дзеясл.* Прыкінуць на вока, вылічыць. *Зьмякні, ці многа нам будзя?* Хвёдараўка Краснап.

ЗЬМЯЦЬ, *дзеясл.* 1. Сцерці. *Жменю пянькі зьмяў.* Ясень Краснап. 2. З'есці. *Зьмяў кывалык хлеба з салым і яшчэ есьці просіць.* Гарадок Расњян.

ЗЬМЯНІЦЬ, *дзеясл.* Змяніць. *Трэба зьмяніць дранку ны калёсых.* Ташна Клім. *Тваё паліто зьмяніла колер, выцьвіла чыста.* Дзямідавічы Касцюк. *У етым хамуце нада зьмяніць лямiц, ато б'ець каню плечы.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЬНЕСЬЦЬ, *дзеясл.* Знесці. *Курыца какочыць, яечка зьнесьць хочыць.* Тур'я Краснап. *Курыца зьнесла некылькі яец ды засядзіла, а мы й ні бачылі.* Малашкавічы Клім.

ЗЬНЕЦІЎКА, *прысл.* Знянацку, нечакана. *Пывярнуўсь і зьнеціўка тыўкануў яго, ды такі здорува, аж стыкан вываліўсь з рук у таго.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЬНІБЕЦЬ, *дзеясл.* Знібець, ныць. *Зьнібеіць серца маё, ны яго гледзючы, як ён мучыцца.* Варанёва Крыч.

ЗЬНІВАГА, -і, *ж.* Знявага. *Слова харошыга ні скажыць, толькі і чуіш адну зьнівагу.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЬНІВАЖЫЦЬ, *дзеясл.* Зняважыць. *Ну, досыць плакаць! Падумаіш — зьніважылі яе дужа.* Гібалы Касцюк.

ЗЬНІКНУЦЬ, *дзеясл.* Знікнуць, прапасці. *Ня ведаю, куды наш нож зьнік.* Канічы Касцюк.

ЗЬНІМАГІ, *прысл.* Праз сілу, зверх змогі. *Упрыцываўсь, зьнімагі працую.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЬНІМАЦЬ, *дзеясл.* 1. Знімаць. *Зьнімі з мыжары драбіны.* Хвёдараўка Краснап. 2. Фатаграфаваць. *Пысадзілі мяне палтрет зьнімаць і прікізалі сядзець і ні шывяліцца.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЬНІНА́ЦКУ, *прысл.* Знянацку, раптоўна, нечакана. *Зьнінацку з-зы вугла тыркануўся сыбака, ну ды таго піріпужаў мяне, што чуць атыйшла.* Слаўнае Мсцісл. *Зьнінацку падышоў, і скуль толькі ўзяўся?* Хвёдараўка Краснап.

ЗЬНІСТАЖЭ́НЬНЕ, -я, *н.* Знішчэнне. *Бальшоя зьністажэньня людзей было ат вайны і ат пошысных хвароб.* Сохана Мсцісл.

ЗЬНІСТО́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Знішчыць. *Распутныя дзеці, зьністожылі ўсё!* Дубеец Касцюк. *Ні знаю, як ета зьністожыць чарвей з капусты, нада іх чым-нібудзь вывісьць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЬНІШТО́ЖЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Знішчаць, нішчыць. *Нада зьністожывыць дрэнныя семя, а купіць луччыя.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЬНІ́ШЧЫЦЬ, *дзеясл.* Знішчыць. *Зьнішчыў сваю худобу.* Латакі Клім. *Ягор хацеў нас зьнішчыць да шчэпкі.* Канічы Касцюк.

ЗЬНЯМЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Знямець, зрабіцца нямым. *Як скызалі яму ета, дык аж зьнямеў.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЬНЯМО́ГА, -і, *ж.* Знямога, знясіленне. *Ужо ў такія гады адчуваіцца зьнямога, а што будзе далей — верна, прыдзецца скора адкызацца ад работы.* Добрае Мсцісл.

ЗЬНЯМО́ГЧЫСЯ [зьнямо́жца], *дзеясл.* Знемагчыся, знясіліцца. *Зьнямогся я зусім, ні магу ўжо рабіць.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЬНЯСЬЦІ [зьне́сьць], *дзеясл.* 1. Знесці. *Пыкармі ты сваю цыпу, ато йіца ні зьнясець.* Ушакі Чэрык. 2. Знесці вадою, змыць. *Па етыму масту нільга праехыць, пытаму што яго пашці пылавіну вясной зьнясло.* Арцёмаўка Міласл. 3. Знесці ветрам, здуць. *Стріха старыя, чуць ліпіць, яе веціp во-во зьнясець.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЬНЯ́ХЫЦЦА, *дзеясл.* Блізка сыйсціся. *Іна зьняхылась з другім.* Горкі Краснап.

ЗЬНЯЦЕ́ЙКУ, *прысл.* Знячэйку, раптам, нечакана. *Зьмітрок Ягора зьняцейку як узяў пыд нагу, дык зразу зывалій.* Добрае Мсцісл.

ЗЬНЯЦЬ, *дзеясл.* 1. Зняць. *Яго можна зьняць з страхі, толькі штоб залезьць туды ўдваіх.* Ушакі Чэрык. *Зьнімі цэнтру ў лапці ды абчысьці нагырь.* Крычаў. 2. Сабраць вяршок, смятану з малака. *Зьнімі з гарлыча вяршок.* Касцюковічы. *Іна зьніла сьмітану з гырлыча і дыла дзіцям сырыквашы.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЬНЯЧЫ́ВІЛІ, *прысл.* У непрытомнасці, непамятаючы. *Зьнячывілі сырвась і пабег у поля.* Брылёўка Краснап.

ЗЬЯВІ́ЦЦА, *дзеясл.* З'явіцца. *Во кіслыя яблыка, адразу аскома зьявілась!* Пірагова Мсцісл.

ЗЬЯ́НЬНЯ, -я, *н.* Ззянне. *На небі зьяньня ат пыжару.* Палуж Краснап.

ЗЬЯЦЬ, *дзеясл.* Ззяць. *Кальцо зылатоя аж зьяіць.* Вярбоўка Расняп.

ЗЭ́ДЛІК, -а, *м.* Зэдлік, услончык. *Вытры зэдлік ды дай чылавеку сесьці.* Папоўка Крыч.

ЗЭ́ТЛІК, -а, *м.* Зэдлік, услон. *На зэтліку кыля печы сядзеў дзед і грэўся.* Стары Дзедзін Міласл.

ЗЮ́ЗЬКА, -і, *м.* Мароз (дзіцячае). *Ні чыпай пальцым лёду, ато зюзька 'тмарозіць.* Барысавічы Клім. *Ня йдзі на двор, там зюзька!* Пірагова Мсцісл.

ЗЮЗЮ́К, -а, *м.* Мароз (дзіцячае). *Зюзюк укуся, ня йдзі з хаты! Ня высоўвай ручкі, бо зюзюк змарозя!* Барысавічы Клім.

ЗЮ́КАЦЬ, *дзеясл.* Гаварыць. *Дос вам зюкаць ужо, ато языкі зыбаляць.* Ушакі Чэрык. *Аўдоцьця з Настай зюкаюць.* Малюшын Краснап. *Сыбраліся ды й зюкаюць сабе, а ні бачуць, што туча надыходзіць.* Бялішчына Мсцісл.

ЗЮКЛІ́ВЫЙ, *прым.* Гаваркі, словаахвотны. *Ну які ж зюклівы гэсты чылавек — ён жа, бач, і мінуты ні пымаўчыць!* Ушакі Чэрык.

ЗЮКНЯ́, -і, *ж.* Гамонка, размова. *Сыбрались бабы, як пычалі зюкню пра авечак, каровак — ды дзе там іх перaслухаіш!* Ушакі Чэрык.

ЗЮМ, -у, *м.* Разынка. *Як пяклі булкі ны вялікыньня — зюму туды сыпалі, смашныя былі!* Парадзіна Мсцісл.

ЗЯ́БІР, -у, *м. бат.* Зябер, пікульнік. *Зябер любяць сьвіньні, пакуль ён мыладый, а як пыстарэіць, ён становіцца калючый.* Пірагова Мсцісл. *У жыці сінім цьветым зябір цьвіцець.* Хвёдараўка Краснап. *У жыці дужа многа зябіру і гарошыку, усі рукі пыкалола, жаўшы. А тут яшчэ пчолы кыла зябіру — глядзі што ўкусіць.* Арцёмаўка Міласл.

ЗЯЗЮ́ЛІСТЫЙ, *прым.* Светла-шэры, падобны па апярэнню да зязюлі. *У нас пятух стаў зязюлістый, як зязюлька.* Сутокі Мсцісл.

ЗЯЗЮ́ЛЬКА, -і, *ж.* 1. Памянш. ад зязюля. *Пакукай, зязюлька, пакукай, серыя! Колькі мне гадоў жыць?* Гібалы Касцюк. *Спытаімсь у зязюлькі, пы колькі год будзім жыць.* Ушакі Чэрык. *Зязюлька голысна кукыя.* Малюшын Краснап. 2. *бат.* Плямісты ятрышнік, зязюлькіны сьлёзкі. *Ны лужку многа цьвіце зязюлік.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЯЗЮ́ЛЯ, -і, *ж. заал.* Зязюля. *Зязюля сядзела на суку і кукыла.* Вінаградаў Міласл. *Зязюля кукыя.* Бардзіч Краснап. *Гранавачкі селі, песні запелі, ‖ А зязюля закукувала.* З нар. песні. Мсціслаў.

ЗЯЛЕ́ЗА, -а, *н.* Жалеза. *Зялеза іржа есьць, а чылавека — хвароба.* Парадзіна Мсцісл. *Аржа есьць зялеза, калі яно ляжыць у сырасьці.* Бяседавічы Хоцім. *А патоле зіму знали — ‖ Што зялезы прыстывалі.* З нар. песні, М. Г. 134.

ЗЯЛЕ́ЗЬНІК, -а, *м.* Жалезнік, рыдлёўка, жалезная лапата. *Маці капала бульбу зялезьнікам.* Ганнаўка Клім. *Вазьмі зялезьнік і йдзі ў гарод, будзім агрэст садзіць.* Гусарка Клім.

ЗЯЛЕ́ЗНЫЙ, *прым.* Жалезны, зроблены з жалеза. *Пупаўся мне нож у кыпіраціві ні стальный, а зялезный, дык гнецца і ня рэжыць нічога.* Слаўнае Мсцісл. *Во ныпалілі зялезныю печку, што нільзя падыйці.* Пірагова Мсцісл.

ЗЯЛЕ́ЙНІК, -а, *м.* Атрутнік, чалавек, што атруціўся. *Зялейнік — ета атрутнік.* Бяседавічы Хоцім. *Вісільнікаў і зялейнікаў ні*

*хуваюць ны магілках, а паводыль.* Гарадок Раснян.

ЗЯЛЕ́ЙНІЦА, -ы, *ж.* Атрутніца, жанчына, што атруцілася. *У етый магілі ляжыць зялейніца.* Бяседавічы Хоцім.

ЗЯЛЁНЫЙ, *прым.* Зялёны. *Кыла нашыя речкі вярсты на тры цягніцца шырокі зялёны лог. Глядзі-ка, ікая пысьля дождж мурайка на вуліцы зялёныя. Мы жалі зялёныя жыта.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЯЛЕ́ПУХА, -і, *ж.* Зялёная, недаспелая ягада. *Ніводнай спелый ягыдкі. Ныбрала зялепухый.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЯМЕ́Ц, зімца́, *м.* Зямец, пчаляр. *Ён зямец харошый: пчол у яго быгата.* Касцюковічы. *Яго толькі дражнюць «зямец», а пчол у яго зроду ні було.* Барысавічы Клім. *Ляксей — добрый зямец, многа пчол маіць.* Хвёдараўка Краснап. *Ну, які з цябе зямец, калі пчолы ў цябе ніяк ні вядуцца?* Ушакі Чэрык.

ЗЯМЕ́ЦКІЙ, *прым.* Пчалярскі. *Замецкыя прілада нібыгатыя: дымарь, сетка ды нож бальшэй.* Гарадок Раснян.

ЗЯМЛІ́ЦА, -ы, *ж.* Зямліца. *Штоб столькі нам зямліцы, як маем вадзіцы, дык і жыць можна було б.* Гарадок Раснян.

ЗЯНКІ́, -оў, *мн. л.* Вочы, зенкі. *Ці табе зянкі пызысланіла, што ты лезіш на дзіцёнка і ні бачыш!* Барысавічы Клім.

ЗЯ́ПА, -ы, *ж.* Зяпа, ляпа, пасць. *У выўка дужа быльшая зяпа, зразу можыць пры глытнуць ягнёнка.* Слаўнае Мсцісл.

ЗЯРНО́, -а, *н.* Зярно. *Ета нызываіцца ён даў: ушчыпнуў з макыва зярно.* Машавая Бялынкав. *Што ў тэй ступцы? ‖ Макыва зярно! ‖ Дзе тоя зярно? ‖ Птушкі зьдзіўбалі.* З нар. песні, М. Г. 150.

ЗЯРЭ́НЦА, -а, *н.* Памянш. ад зярно. *Зьбірай і шчадзій каждае зярэнца, а цяпер усё зыбралі.* Сохана Мсцісл.

ЗЯ́ЎКЫЦЬ, *дзеясл.* Разяваць рот, разносіць плёткі, гаварыць злое. *Ні хачу, каб людзі зяўкылі ны мяне.* Хвёдараўка Краснап.

ЗЯЦЬ, *дзеясл.* Ззяць. *Зяіць, як сонца!* Кокатава Мсцісл. *Персьні так і зяюць ны пальцах.* Маластоўка Краснап.

ЗЯЦЬ, -я, *м.* Зяць. *Зяць цесьця гукаў у госьці.* Сапрынавічы Мсцісл. *Зяць прыбыў грошы ны карову.* Палуж Краснап. *Іван з сваёй часьці, што зыстылася пысьля падзелу, яшчэ частку даў зяцю.* Арцёмаўка Міласл.

# І

І, *злучн.* І. *Паніўка чуць-чуць замерзла і сьнегум яе завеіла, дык ён як стаў ны яе, так і паехыў пад лёд.* Бяседавічы Хоцім. *Іван нос разьбіў сабе, а Ганна ў грязь вымызылась, і ўсё ета чыріз цябе.* Арцёмаўка Міласл. *Там пры Дунаю табуны маю, ‖ І сівыя, і гнядыя, і плясьнівыя й выраныя,* З нар. песні, М. Г. 97.

ІВА́Н-КУПА́ЛА, -ы, *м.* Купалле. *Многа ёсьць казык аб зыклятых грошых, як яны ны Івана-Купала зь зямлі вылазюць.* Слаўнае Мсцісл. *На Івана-Купала папырыць цьвіцець, і калі сырваць етый цьвет, то будзеш ўсё чыста знаць, айдзе што ёсьць.* Зоры Чэрык.

ІВАНЫ́Ў ЧЫРВЯЧО́К, *заал.* Іванаў чарвячок, светлячок. *На ймху многа Іванывых чырвячкоў, уночы як сьвечычкі гырацъ яны.* Хвёдараўка Краснап.

ІВІНА, -ы, *ж. бат.* Івіна. *Івіна ўжо цьвіцець.* Хвёдараўка Краснап. *Спыдыбала мне а ні ель, ні сысна, ‖ А ні ель, ні сысна, ні белыя бяръёза, ‖ Спыдыбала мне жоўтыя івіна.* З нар. песні, М. Г. 13.

ІВІРЫНЬ, *прысл.* Старчаком. *Не сячы ў івірынь, ато тапор атломіш.* Хвёдараўка Краснап.

ІГЛА́, -ы, *ж.* Ігла. *Вунь ляжыць ігла, падніміі, ато ў нагу яшчэ ўлезіць.* Багацькаўка Мсцісл. *Адна ігла злымалысь, а другую пацірала.* Ушакі Чэрык.

ІГЛІ́ЦА, -ы, *ж.* 1. Драўляны брусочак, што забіваецца ў прарэзаны ўпоперак дошак паз для змацавання (у дзвярах). *Дзьверы зьбіты ігліцамі.* Пухнава Раснян. 2. Брусок, што злучае брусы з зубамі ў баране, праходзячы праз іх. *Ігліцы дубовыя ў быране — заснова.* Там жа.

ІГО́ЛКА, -і, *ж.* Іголка. *Зыцягні мне нітку ў іголку, ато я не бачу.* Юркаўка Крыч. *Ён кылі зыкалупіць зы жывое, дык ня горш, як іголкаю.* Куркаўшчына Мсцісл.

ІГРА́, -ы, *ж.* Гульня. *Што ета за йгра, калі йграць, дык нада пу правільныму, а ні жульнічыць.* Юркаўка Крыч.

ІГРА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Іграць (на музычных інструментах). *Прыехаў к нам арганіст, тый, што іграець на ’ргані.* Жэрацінo Мсцісл. *У майго дзядзькі ёсьць грымахвон, дык я цяперь часта хаджу слухаць, як ён іграіць.* Бяседавічы Хоцім. *Твыя скрыпка добра йграіць.* Белы Мох Мсцісл. 2. Гуляць (у карты ці ў другую гульню). *Мы ігралі ў карты, дык ён шосткыю хацеў пакрыць дзівятку.* Арцёмаўка Міласл. 3. Удзельнічаць у спектаклі. *Во цікава нашы арцісты на сцэні йграюць!* Пірагова Мсцісл. 4. Цвісці. *Як мыя дачушка гуляла, ‖ Пыд аконцам рожа іграла. ‖ Пірістала дачушка гуляці, ‖ Пірастала і рожа іграці.* З нар. песні, М. Г. 25.

ІГРА́Ч, -а, *м.* Музыка. *Іграй, іграй, ігрaчу, а я табе зыплачу.* Маластоўка Краснап.

ІГРІ́ШЧА, -а, *н.* Ігрышча, вечарынка моладзі з песнямі, музыкай і скокамі. *Дзеўкі пашлі на ігрішча.* Дубеец Касцюк. *Пойдзем з табой на ігрішча.* Новае Сяло Мсцісл.

ІГРУ́ША, -ы, *ж.* Груша, грушавае дрэва. *Каб у майго бацюшкі ‖ Зелін сад-віныград, ‖ Чырвоныя вішыньня і колкыя ігруша.* З нар. песні, М. Г. 120.

ІГРУ́ШКА, -і, *ж.* Груша, груша-плод. *Я купіў два хунты ігрушак.* Раснян.

ІГРЫ́ШЧА, -а, *н.* Ігрышча, вечарынка моладзі з песнямі, музыкай і скокамі. *Мо-*

*ладзь пышла на ігрышча.* Вінаградаў Міласл.

ІДА́, -ы, *ж.* Яда, харчы, страва. *Сяньні іда ў нас дужа плыхая — адна бульба.* Канічы Касцюк.

ІДЖА, *часц.* Вось жа. *Іджа ты кызаў праўду, што сёліта зіма будзіць лёгкыя.* Гібалы Касцюк.

ІДЗЕ́, *прысл.* Дзе. *Ідзе ж дзеўся мой рушнік, ато і апцерца нечым.* Лешчынка Мсцісл. *Усе гэтыя дні я быў у вёсцы, йдзе жывуць мае бацькі.* Крычаў.

ІДЗІВО́Т, -а, *м.* Ідыёт. *Ідзівот пабег па вуліцы.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ІДЫЛ, -а, *м.* Ідал, чорт. *Во ўредный ідыл: прішоў і рызарыў — нячыстыя сіла, а ні чылавек.* Арцёмаўка Міласл.

ІЖО́КІЛА, -ы, *ж.* Калючая трава. *На што ш ты мяне абсек іжокілаю?* Новае Сяло Мсцісл.

ІЗ, *прыназ.* З. *Узяў із злосьці паскіпаў, паскіпаў тый стол, толькі 'скёпкі зысталіся!* Юшкі Мсцісл. *Зярно высыпалась із меха.* Гусарка Клім. *Ішлі дзевычкі із поля, ‖ Нясьлі красычкі ў прыполі.* З нар. песні.

ІЗВО́ЖЧЫК, -а, *м.* Возчык, рамізнік. *У ізвожчыка пуга заўсёды добрыя.* Пухнава Расьнян.

ІЗДА́ЦЦА, *дзеясл.* Здацца, папусціцца. *Іздайся толькі ны цябе, дык німаведыма што выйдзя.* Палуж Краснап.

ІЗДЗЕ́ЛЫЦЬ, *дзеясл.* Зрабіць. *Ізьдзелый атвару, бяльлё мыць нада.* Татаршчына Мсцісл. *Заячу шкурку купіў — аблавух ізьдзелыю.* Мсціслаў.

ІЗМА́ЛКУ, *прысл.* Змалку, з малых гадоў. *Я свайго сына ня відала ізмалку: а якій ён стаў агрымадный!* Пірагова Мсцісл.

ІЗНАСІ́ЦЦА, *дзеясл.* Знасіцца, падрацца ад ужывання (пра адзежу). *Спадніца мыя ізнасілась у плейтухі, што і надзець неяк.* Канава Хоцім.

ІЗНЕ́ЦІЛЬКІ, *прысл.* Раптам, нечакана, знянацку. *Ізьнецількі як ударыў па вусе.* Хоцімск.

ІК, *прысл.* Як. *Ік упаў на лёдзе, ажно ўсі пячонкі 'дбіў.* Віхраны Мсцісл. *Ік сьцібануў яго пугыю, той і завыў.* Зарубец Крыч. *Ік абняў яго ўпол, дык паваліў яго 'дразу.* Сапрынавічы Мсцісл.

ІКАВО́. *прысл.* Якаво, якое. *Ікаво тваё здароўя?* Гібалы Касцюк.

ІКАНО́МІЯ, -і, *ж.* Гаспода, панскі двор. *Ён — батрак, раньшы ў іканоміі служыў, а січас сільсавеччык.* Казельская Краснап.

ІКАЦЦА, *дзеясл.* Ікацца. *Нешта ікаіцца, знаць, нехта нейдзі памінаіць мяне.* Сохана Мсцісл.

ІКАЦЬ, *дзеясл.* Ікаць. *Я так здубей, што ікаць пычаў.* Стары Дзедзін Міласл.

ІКРА́, -ы, *ж.* Ікра. *Курапа сквярэцца, як ікру меча.* Парадзіна Мсцісл.

ІКРАЗ, *прысл.* Якраз. *Зы яго нільзя брацца, што ён ні ўкрадзіць, ікраз можа ета і ён украў.* Арцёмаўка Міласл. *Ты ікраз пахож ны матку.* Кокатава Мсцісл.

ІКРЯ́НІК, -а, *м.* Мускулісты, ікрысты, з вялікімі ікрамі. *Во стаіць ікрянік!* Хвёдараўка Краснап.

ІКЫНЬНЯ, -я, *н.* Іката. *Ікыньня нейкыя ныпала ны мяне, ні магу ўстрымацца — ік!* Слаўнае Мсцісл.

ІЛГУ́Н, -а, *м.* Манюка, чалавек, што гаворыць няпраўду. *Ня верь яму, ён ілгун, ніколі табе праўды ні скажыць.* Арцёмаўка Міласл.

ІЛІЦЬ, *дзеясл.* Імжэць, ісці дробнымі кропелькамі (пра дождж). *Дождж ык іліць, іліць.* Горкі Краснап.

ІЛКА́, -і, *ж.* Лапта, дзіцячая гульня з мячом. *Дзеці гулялі ў ілку. Дык адзін зымахнуўся, штоп хырашэнька ўдарыць мячыка, дык ўдарыў зьніцільку пы руке таго, хто вадзіў.* Арцёмаўка Міласл. 2. Палка, якою б'юць мяча ў гульні ў лапту. *Дай ілку, я буду падгіліваць.* Хвёдараўка Краснап.

ІЛЬМА́К, -а, *м. бат.* Ільма, вяз. *Із ільмыка можна лапці сплесьць.* Хвёдараўка Краснап.

ІМБРЫ́ЧЫК, -а, *м.* Імбрычак, чайнік, у якім заварваецца гарбата [чай]. *Матка купіла імбрычык.* Касцюковічы. *Ня вылівай чай з імбрычыка, я буду піць яшчэ.* Шапялёва Жлобін.

ІМГЛА́, -ы, *ж.* Імгла, туман. *На небі імгла, і сонца ня відна.* Слаўнае Мсцісл.

ІМЖА́, -ы, *ж.* Імжа, дробны дождж (увосень). *Імжа йдзець ны дваре.* Горкі Краснап.

ІМЖЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Імжаць, падаць дробненькімі кропелькамі, сеяцца, як праз сіта (пра дождж). *Пачылася восінь: увесь дзень імжыць.* Горкі Краснап.

ІМПЭ́Т, -у, *м.* Імпэт, імкненне, жаданне. *У мяне вялікій імпэт ажаніцца з етыю дзеўкыю.* Слаўнае Мсцісл.

ІМШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Імшыць, перакладваць мохам, класці мох у пазы пры будоўлі. *Ці будзеш ты хату імшыць?* Хвёдараўка Краснап.

ІМШЭ́НЬ,- я, *м.* Пограб. *Сёліта бульбы насыпалі поўны імшэнь.* Куранец Краснап.

ІМЯ, -я, *н.* Імя. *Ета яго імя, знаць, Іван, а сына яго завуць Мікіпырым.* Арцёмаўка Міласл. *А радзіла мяне маці пыд каліный, ‖ А даў поп імя Куліна.* З нар. песні.

ІНА́, *займ.* Яна. *Іна пайшла ў школу.* Хоцімск. *Іна плоха відзіць, у яе ў вычах на зенкых нейкія плёнкі.* Арцёмаўка Міласл.

ІНАЧЫ́Й, *прысл.* Інача́й, інакш, не гэтак, як другія. *Ня ўсі аднолькыва робяць: адзін так, а тэй іначый.* Юшкі Мсцісл.

ІНАЧЫЦЬ, *дзеясл.* Іначыць, рабіць іначай, перарабляць. *Я дзелыў, а яму ні ныравіцца, вось і пычаў іначыць.* Усцінавічы Краснап.

ІНБА́Р, -у, *м.* Будынак для збожжа, розных тавараў, свіран. *Мы іх сустрэлі длі таго старога інбару, што на быльшаку стаіць. Зынясі мяхі ў інбар.* Пірагова Мсцісл.

ІНБЕ́Р, -у, *м.* Інбер. *Ныкыпаць інберу ды ныпаріць і даць выпіць з мылаком — пройдзіць усё чыста, і будзіць здароў.* Усцінавічы Краснап.

ІНВЭ́НЬЦЫЯ, -і, *ж.* Імкненне што-небудзь зрабіць, звычайна дрэннае. *Во ў яго інвэньцыя: так і любіць за жывоя зыкалупіць.* Куркаўшчына Мсцісл.

ІНДЫ́К, -а, *м.* Індык. *Індык, як зыкалдычыць, ды як спусьціць красный нос, як распусьціць кружком хвост, ды спусьціць крыльля, дык аж глядзець дзіка.* Арцёмаўка Мілас́л. *Надулыся свацьця, як індык.* Канічы Касцюк.

ІНДЫ́ЧКА, -і, *ж.* Індычка, самка індыка. *У індычкі хвост ні такей, як у індыка.* Арцёмаўка Міласл.

ІНДЫ́ЧЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад індычка. *Індычычка-— шулды-булды, ‖ Авечычка — мя-мя-мя.* З нар. песні, М. Г. 64.

ІНО́ГДЫ, *прысл.* Іншы раз, часамі. *Іногды бываіць і ўвосінь цёплыя і вясёлыя дні.* Канічы Касцюк.

І́НШЫЙ, *прым.* Іншы, інакшы, не такі, як другія. *Глядзі-ка! Пьяніца быў — ажаніўся, ну і ачылавечыўся: сусім іншым стаў, і ласкывый, ды й ня пьець.* Слаўнае Мсцісл.

ІНЬГЕ́РКА, -і, *ж.* Доўгае пальто ў мяшчанак. *Сшыла сабе новыю іньгерку.* Горкі Краснап.

ІРАВЫ́Й, *прым.* Яравы. *Іравоя поля абсеіна.* Палуж Краснап. *Ірывая пшаніца луччы за зімовыю.* Татаршчына Мсцісл.

ІРВА́ЦЬ, *дзеясл.* Ірваць, ванітаваць. *Як патыкі наеўсь, дык ірваць верня.* Хвёдараўка Краснап.

ІРГІ́НЯ, -і, *ж.* Вяргіня, геаргіна, кветкавы куст і сама кветка. *У нас ужо іргіня зацьвіла. Іргіні бываюць усякіх цьвітоў і очінь красівыя.* Карма-Пайкі Краснап.

ІРДА́НЬ, -і, *ж.* Рэлігійны абрад асвяшчэння вады. *На ірдань сёліта людзей ня дужа многа сыбралыся.* Мсціслаў.

ІРДЗЕ́ЛЬ, -я, *м.* Ірдзель, чырвонашчокі чалавек. *Ірдзель быў ішчэ гэсты дзед, як рыжок.* Ушакі Чэрык.

ІРЖА́, -ы, *ж.* 1. Іржа. *Іржа жалеза есьць.* Зоры Чэрык. *На тыпаре іржа пыявілась ат сырасьці.* Гарбавічы Касцюк. 2. Жыта. *Асьмачок іржы ныжала.* Пірагова Мсцісл.

ІРЖАВЕ́Ц, -аўца, *м.* Іржа. *Іржавец піраеў гэтый лямец, вот ён і злымаўсь.* Пірагова Мсцісл.

ІРЖА́ВІНЬНЯ, -я, *н.* Іржа. *Ны замку ат сырасьці зывялось іржавіньня.* Слаўнае Мсцісл.

ІРЖЫ́ШЧА, -а, *н.* Іржышча, астаткі сцяблоў жыта пасля жніва, пожня. *Па іржышчу пасліся каровы, дык і наелісь луччы.* Юшкавічы Расням. *Сёліта іржышча бальшоя, высока жалі.* Новыя Капачы Мсцісл.

ІРЗА́НЬНЯ, -я, *н.* 1. Іржанне. *Нейдзе конскыя ірзаньня чуць, відна, ў лузе коні ходзюць.* Шыркі Расням. 2. Громкі смех, рогат. *Калі ты ўжу кончыш сваё ірзаньня, хі-хі-хі ды ха-ха-ха, большы ты нічога ні знаіш, угамону табе німа.* Арцёмаўка Міласл.

ІРЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Іржаць. *Пріехыў к стайні — конікі ірзуць.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

І́РЗЫ, -аў, *мн. л.* Смех, рогат, *Нечыга ірзы спрыўляць.* Хвёдараўка Краснап.

І́РМУС, -а, *м.* Варвас. *Ірмус ты! Што ты дзелыіш.* Хвёдараўка Краснап.

ІРМЯ́К, -а, *м.* Армяк, суконная верхняя доўгая вопратка. *Пятрок прыпаліў ны начлезі ірмяк.* Гібалы Касцюк.

І́РТЫ, -аў, *мн. л.* Лыжы. *Длі хадзьбы па глубокаму сьнегу к ныгам пыдвязываюць ірты.* Гібалы Касцюк.

ІРУНДА́, -ы, *ж.* Ерунда, глупства. *Зы такую ірунду ты гневыцца ны мяне ўздумыў. Злавілі саву, дык каб ты ведыў, якія ў яе вялікія кыпцюры, што ёй так куріцу зыдраць — ірунда.* Слаўнае Мсцісл.

І́РХА, -і, *ж.* Ірха, вырабленая цялячая ці авечая скура без шэрсці, служыць для абшыўкі адзення. *Ну, кумок, дыстывай ірхі, нада абшыць дзьве сьвіткі і пінджак.* Бяседавічы Хоцім.

І́СКАРКА, -і, *ж.* Памянш. ад іскра. *Маленькая іскарка, а чуць не прапаліла мне штаны.* Канічы Касцюк.

ІСКА́ЦЬ, *дзеясл.* Шукаць. *Куды бяжыш ты, маленькыя? Бягу сваее маткі йскаць.* Меншая Багацькаўка Мсцісл. *Пойдзіць Мыланка бацькі йскаць. ‖ А й весь рядочык абыйшла, ‖ Нідзе татухны ні зныйшла.* З нар. песні, М. Г. 15.

ІСКРА́, -ы, *ж.* Іскра. *Ад іскры рубашка зацьмела і чуць не прыгарэла.* Сохана Мсцісл.

ІСКРА́ННЫЙ, *прым.* Жаданы. *Будзя іскранны госьць — зь печы іскры сыплюцца.* Палуж Краснап.

ІСКРА́НЫЙ, *прым.* Іскраны, з іскрамі. *Цімох! Ты прачысьці комін, ато хату спаліш: учора ў цябе над коміным стоўп іскраны быў.* Зоры Чэрык.

І́СКЫРЬЯ, -я, *н. зборн.* Іскры. *З нязьдзёр у яго полымя шыбаіць, а з роту ў яго іскырья сыпліцца.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

І́СНАСЦЬ, -і, *ж.* Існасць [сутнасць]. *Ня ў том існасьць, што яго выбралі ў сельсавет, а ў том, што ён там дзелыць будзіць.* Журбін Бялынкав.

ІСПО́ДАК, -дка, *м.* Сподак. *Адзін быў исподак, і той разьбіўся — цяпер мне хоць ты і чаю ня пі; гырачыга дужа ні люблю, а ў кружцы ня скора астыець.* Добрае Мсцісл.

ІСПО́ДКА, -і, *ж.* Вязаная з шарсцяных нітак рукавіца. *Зьдзелый-ка мне на зіму исподкі, каб рукі ня мерзьлі.* Слаўнае Мсцісл.

ІСПО́ДНІЙ, *прым.* Исподні, сподні [ніжні]. *Пэркылю купіла на исподнія бяльлё.* Слаўнае Мсцісл.

ІСПО́ДНІКІ, -аў, *мн. л.* Споднікі, кальсоны. *Вынь-ка мне чыстую сарочку і исподнікі, пайду ў лазьню.* Слаўнае Мсцісл.

ІСТО́ПКА, -і, *ж.* Істопка, ацепленая каморка, звычайна ў сенях, у якой ставіцца капуста на зіму і іншая гародніна. *Пайдзі, Мар'я, у істопку ды прынясі бурачкі са два. Высып бульбу зь мішка ў істопку.* Расна.

ІСТРУ́Б, -а, *м.* Зруб. *Нашу хату плотнікі сыгналі ўжо ў іструб, цяпер нада класьць балькі.* Слаўнае Мсцісл. *Пыставіў сабе іструб, а накрыць нечым.* Хвёдараўка Краснап.

ІСТРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Вастрыць. *Істрыў нож ды руку парезыў.* Вербеж Чэрык.

ІСТУ́ЖКА, -і, *ж.* Істужка. *У касу табе ўпляту мінскаю йстужку.* Куркаўшчына Мсцісл.

ІСЦА́, -ы, *ж.* Асца, стрыгучы лішай.

*У дзіцёнка гылыва ўся аблезла, ісца, знаць, у яго.* Жалезніца Крыч.

ІСЬЦІ, *дзеясл.* Ісці. *Прыпынываў я ёй ісьці са мной; ні зыхацела, ну і ні нада.* Ушакі Чэрык. *Нам далей не дазвылялі ісьці; мы тут і аселі.* Пірагова Мсцісл. *Я ішоў паўз прасла і разырваў рубашку.* Рагі Быхаўск. *Ідзі зрэж кычанок у гародзі, варіва зварім.* Арцёмаўка Мілаcл.

ІСЬЦІНА, -ы, *ж.* 1. Ісціна, праўда. *Ні рызьбярэш у етым дзелі, дзе тут мына, а дзе ісьціна.* Стары Дзедзін Мілаcл. 2. Ісціна, пазыка без працэнтных нарашчэнняў або сума чыстага падатку без пені. *Зымучылі нас етыя працэнты, ці як іх там, пенія, ці што называюць — калі ні зыплаціў у час, дык праз месіц, глядзі, што етай пеніі нада больш як ісьціны плаціць.* Кокатава Мсцісл. *Хыця каб ісьціну атдаў, а процынты ўжо ліха зь ім, ніхай сабе пакініць.* Машавая Бялынкав.

ІСЬЦІННА, *прысл.* Сапраўды, верна. *Ісьцінна табе кажу, што кылі зы дзьвюмя зайцымі пагонісься, ні 'днаго ні пыймаіш.* Арцёмаўка Мілаcл.

ІЎГАЦЬ, *дзеясл.* Ілгаць, казаць няпраўду (маніць). *Іўжэш ты! Ня так ета была; я ж відзіла — ты пычаў задзірацца першы.* Хвёдараўка Краснап.

ІЎЧЫК, -а, *м.* Птушка. *Іўчык — нівялікыя пташка, а яечкі ў яго галубінькія.* Хвёдараўка Краснап.

ІХНЫЙ, *займ.* Іхны, іх. *Іхныя капуста лепшыя зы нашу таму, што яны раней пысадзілі. Іхныя мужукі пашлі ў лыкі.* Багацькаўка Мсцісл.

ІЦІ, *дзеясл.* Ісці. *Пыдажджы, будзіць іці Сымон, дык умесьці пойдзім.* Баеўка Крыч.

ІЦІЦЬ, *дзеясл.* Ісці. *Сколькі я прайшоў, а ўжо сусім амяг: далей іціць ні магу.* Канічы Касцюк. *Дзеўка ссушыла мяне — ня хоча йіцьць у замуж.* Палуж Краснап. *Сёньня трэба іціць валіць лес ны хату.* Канічы Касцюк.

ІЦЬВІНА, -ы, *ж.* Іцвіна, звязка ў галоўках палазоў. *Етыя іцьвіны някрэпкія.* Хвёдараўка Краснап. *Надта слабыя іцьвіна ў тваіх сынях.* Ташна Клім. *Уторкаў тапор у іцьвіну, штоб ні пыцірайся пы дарозі.* Крычаў. *Уторкні тапор у галоўкі ў іцьвіну.* Аршаншчына.

ІШ, *выкл.* Бач. *Іш, прыткей — ураз зьлётаў. Адна ныга тут, другая — там.* Парадзіна Мсцісл.

ІШЧЭ, *прысл.* Яшчэ. *Зыгыдзя ты прыйшоў, трэба было ішчэ пычыкаць троху.* Ушакі Чэрык. *Прізаўныла маё серца ішчэ ў малінькія, ‖ Ішчэ ў малінькія ды няўзрось-лінькія.* З нар. песні, М. Г. 144.

# К

К, *прыназ.* Да. *Зыпрягі кыня, паедзім к свату ў госьці.* Бяседавічы Хоцім. *Прістаў лесьніцу к сьцяне, штоб ні ўпала.* Раздзел Мсцісл. *К сваей радні паеду.* Ушакі Чэрык.

КА, *прыназ.* Да. *Заўтра прыходзь ка мне пысьля абеду.* Вярбоўка Расеян. *Баба мыя быгданыя! ‖ Хадзі ка мне. Пірібаб ты мне ‖ Дзіця маё маленькыя.* З нар. песні, М. Г. 1.

КАБ, *злуч.* Каб. *Дзім'ян зыгырадзіў у гародзі дзірку, каб сьвіньні ні лазілі.* Гібалы Касцюк. *Каб знацьцё, ня йшоў бы туды.* Хвёдараўка Краснап. *Каб цябе радзіміц забіў, атряху такога акыянныга.* Арцёмаўка Мілаcл.

КАБАН, -а, *м.* Кабан, парсюк. *Наш кабан ужо бальшэй.* Крычаў. *Як калоў кабана, абкрываніў ён мяне ўсяго.* Пірагова Мсцісл.

КАБАТ, -а, *м.* Кабат, гарсецік. *Вулька, пірішый к спадніцы кабат.* Баеўка Крыч. *Мой кабат стаў мне цесны.* Тур'я Чэрык. *У бабы андрак чорны, а кабат чырвоны.* Машавая Бялынкав. *Матка купіла мне саціну на кабат.* Шумячы. *Прыгожый сіній кабат шчытна абцягваў яе грудзі.* Пірагова Мсцісл.

КАБЫЛА, -ы, *ж.* 1. Кабыла. *Пасьледнію кабылу зьвялі, цяперь хоць бяры кайстру ды ў старцы йдзі.* Юшкі Мсцісл. 2. Скляпенне ў печы. *Хутка печ будзя гатова: кабылу ўжо зьвёў, цяперь комін зысталося зьдзелыць.* Хвёдараўка Краснап.

КАБЫЛКА, -і, *ж.* Памянш. ад кабыла. *Дарожка крівая, ‖ Кабылка ліхая, ‖ Дужка зывалілысь, ‖ Кабылка змарілысь.* З нар. песні, М. Г. 148.

КАВАЛАК, -лка, *м.* Кавалак. *Яна ела хлеб і кінула кавалак сыбаку.* Васілёўка Хоцім. *Дай мне кавалак паперы.* Немерка Расеян.

КАВЯРЗЕНЧЫК, -а, *м.* Памянш. ад кавярзень. *Адмыталысь віроўка, ымаль кавярзенчык з нагі ні згубіўсь.* Ушакі Чэрык.

КАВЯРЗЕНЬ, -зьня, *м.* Лапаць. *Як слова скызаць, адзін кывярзень і гатоў. Другей зараз сьпляту і абуюсь.* Карма-Пайкі Краснап.

КАГАНЕЦ, -нца, *м.* Каганец, свяцільня, робіцца з чарапка, у які наліваюць сала і спускаюць кнот. *Запаліця хто-небудзь каганец!* Мсціслаў.

КАГАТ, -а, *м.* Яма для схову бульбы. *Бульбу склалі ў кагат на зіму.* Хвёдараўка Краснап.

КАГОЦЬЦЯ, -я, *н. збор.* Кіпцюры. *Лянь ты, якія ў кыта кагоцьця!* Пірагова Мсцісл.

КАДЗІЛА, -а, *н.* Кадзіла. *У нашай церкві адно і тоя староя кадзіла.* Канічы Касцюк. *Паможыць ета, як мёртваму кадзіла.* Красоўка Калінінщына.

КАДКА, -і, *ж.* Кадушка. *Нада купіць кадку на гуркі.* Шумячы.

КАДРЕЛЬ, -і, *ж.* Кадрыля. *Раней на ігрышчы толькі і скыкалі, што полькі і кадрелі, а цяперь ужо вальсы ды тустэпы пычаліся.* Слаўнае Мсцісл.

**КАДУ́ШКА**, -і, *ж.* Кадушка, пасудзіна з драўляных клёпак, звязаных абручамі. *Кадушка наліта вадою.* Мышкі Раснян. *У хаце стаіць кадушка.* Зялёны Луг Мсцісл. *У майго дзеда ў клеці стаіць целыя кадушка мёду.* Бяседавічы Хоцім.

**КАДУУ́БА**, -ы, *ж.* Кадаўба, кадаўбец, пасудзіна, выдаўбленая з цэлага камля дзерава. *Зусім згніла кадуўба, толькі на сухое што прыдасца.* Тур'я Чэрык. *Сёліта мёду мала пчолы сыбралі, толькі адну кадуўбу мы выбралі.* Маляцічы Крыч.

**КАЁМ**, -а, *м.* Шустры, бойкі. *Ой, каём ён, ні дасьць праступу.* Брылёўка Краснап.

**КАЁМІНА**, -ы, *ж.* Шустры, бойкі. *Каёміна етый, усюды ён пасьпее, усюды свой нос уваткнець!* Стары Дзедзін Міласл.

**КАЖАМЯ́КА**, -і, *м.* Кажамяка, майстар, што вырабляе аўчыны. *Дзе гэста жывець кажамяка? Трэба занесьць аўчынкі на выраб.* Ушакі Чэрык.

**КА́ЖДЫЙ**, *прым.* Кожны. *Каждыму пынятна, што сьвякрова ня матка.* Арцёмаўка Міласл. *Зьбірай і шчадзій каждыя зярэнца.* Сохана Мсцісл.

**КА́ЖНЫЙ**, *прым.* Кожны. *Увосень кажны дзень ідзець дождж.* Канічы Касцюк.

**КАЖУ́Х**, -а, *м.* 1. Кажух, верхняя вопратка з аўчын. *Мой кажух дзіравэй, дык ні грэіць.* Пацкава Мсцісл. *Бацька надзеў кажух і недзе пашоў.* Шумячы. 2. Прастора паміж печкай і сцяной, калі печ стаіць блізка пры сцяне. *Кошка палезла ў кажух — холадна будзе.* Машавая Бялынкав.

**КАЖЭ́ЎНІК**, -а, *м.* Гарбар, майстар, што вырабляе скуры. *Мой дзядзька — кажэўнік, ён сам умеіць выдзелывыць кожы і нядорыга бярэць.* Пірагова Мсцісл.

**КАЖЭ́ЎНЯ**, -і, *ж.* Гарбарня, майстэрня, дзе вырабляюць скуры. *Нада 'ддаць кожу ад нашыга быка ў кажэўню на выдзелку.* Пірагова Мсцісл.

**КАЗАНЕ́Ц**, -нца, *м.* Казанок, чыгунок з вушкамі. *Вазьмі з сабою ў луг казанец.* Тур'я Чэрык.

**КАЗА́ЦЬ**, *дзеясл.* Казаць, гаварыць. *Праўду ты казаў, што сёліта зіма будзіць лёгкая.* Гібалы Касцюк.

**КАЗЁЛ**, -зла, *м.* 1. Казёл. *У Янкеля быў вялізный казёл, дык, бывала, праходу ні даець, каб на яго ліха, бадзяецца.* Мсціслаў. *Янка ўпірліў, як казёл.* Глінь Калініншчына. 2. Казлы, прылада пілаваць дровы. *Нада зьдзелыць казёл ды парезыць етыя дровы.* Арцёмаўка Міласл. 3. *бат.* Казляк, маслюк, грыб. *Казёл — харошый гріб, ён ня дужа чарьвівый, корінь, праўда, дужа цьвёрдый, а шляпка жоўціныкыя з мыхрамі.* Арцёмаўка Міласл. *Казлы растуць у сасновым лесе, калі іх жарацьб, то кожычку аблуплюць.* Пірагова Мсцісл. *Казлоў бытата ў етым лесі.* Хвёдараўка Краснап. 4. Палавіна веніка. *Адзін ужо ё казёл на венік, а другей нада зьдзелыць.* Хвёдараўка Краснап.

**КАЗЁЛЕЦ**, -льца, *м. бат.* Люцік, казелец. *Казелец цьвіцець — трэба аўсы сеіць.* Брылёўка Краснап.

**КАЗЁННЫЙ**, *прым.* Казённы, скарбовы, належачы дзяржаве. *Наша вучылішча занімае казённы дом.* Слаўнае Мсцісл.

**КАЗІ́НЫЙ**, *прым.* Казіны, казлячы. *Вопыдзь ны цябе выйдзі казіныя!* Хвёдараўка Краснап.

**КАЗІ́ЦЦА**, *дзеясл.* Казіцца, прывесці прыплод. *Кыза казілыся позна.* Сцяпанаўка Краснап.

**КА́ЗКА**, -і, *ж.* Казка, *Аўдоля добрыя казкі ўмеіць кызаць.* Іванаўка Хоцім. *Многа ёсьць казык аб зыклятых грошых, як яны ны Івана Купала зь зямлі вылазюць.* Слаўнае Мсцісл.

**КАЗНА́**, -ы, *ж.* Скрынка ў стале, шуфляда. *Пылажы кнігі ў казну.* Тур'я Чэрык.

**КАЗЫ́РЬ**, -я, *м.* Шапка з казырком. *Казырь то новый, ды ціснуват, на гылаву ня лезіць.* Юзэфаўка Хоцім. *Мой казыр вельмі стары, нада новый купіць, ато надзіваць брыдка.* Новыя Капачы Мсцісл.

**КАЗЮ́ЛЬКА**, -і, *ж.* 1. Казюлька [казурка]. *Нейкыя казюлька паўзець.* Хвёдараўка Краснап. *Ны цябе ўспуўзла маленькыя казюлька.* Слаўнае Мсцісл. 2. Выразаны з яліны чурбак з сукамі, служыць заместа зэдліка. *Прысядзь ты хоць ны казюльцы.* Хвёдараўка Краснап. *Мае ногі стаяць ны казюльцы.* Маляцічы Крыч.

**КАЗЮ́ЛЬКІ**, -аў, *мн. л.* Казлы для пілавання дроў. *Ну, стынаві казюлькі, ды будзім дровы рэзаць.* Брылёўка Краснап.

**КА́ІНЬНЯ**, -я, *н.* Каянне. *Посьле сьмерці каіньня німа.* Канічы Касцюк.

**КА́ЙСТРА**, -ы, *ж.* Кайстра, торбачка. *Уклаў у кайстру хлеба дый закінуў за плечы.* Касцюшкавічы Крыч. *Пылажы ты ў кайстру сваё кніжкі ды нясі.* Ушакі Чэрык. *Набраў бульбы поўную кайстру.* Гарбавічы Касцюк. *Недзе кайстру з хлебам згубіў, дык вось цэлы дзень галодны.* Кісялёўка Раснян. *Жабрак сабраў кайстру хлеба.* Дзяніскавічы Навазыбк.

**КАЙСТРА́**, -ы, *ж.* Кастра, саломка пасля трапання льну. *Кайстра ў вочы лезя, ік лён трэплюць. Пасморгый аборку, каб кайстры ні было.* Хвёдараўка Краснап.

**КАСТРЫ́ЙКА**, -і, *ж.* Памянш. ад ка́йстра. *Хлеб ляжыць у кайстрыйцы.* Шумячы.

**КА́ЙСТРЫЧКА**, -і, *ж.* Памянш. ад ка́йстра. *Нясі ў гэтай кайстрацы сьніданьня бацьку.* Смолькаўская Буда Бялынкав. *Ходзіць мой сусед з кайстрычкаю ды зьбіраіць хлеб.* Васілёўка Хоцім.

**КА́ІЦЦА**, *дзеясл.* Каяцца. *Будзіш каіцца, што ні пашоў, ды позна будзіць, ні паможыць.* Арцёмаўка Міласл. *Б'ю ж яго за ета і ўсё ройна ні каіцца: усё сваё спагыняе.* Хвёдараўка Краснап.

**КАКАЛУ́ША**, -ы, *ж.* Чаромха. *Ужо какалуша расьцьвіла ў нашым садзе.* Крычаў.

**КАКЛЕ́ТА**, -ы, *ж.* Катлета. *Іна парубіла мяса і ныжарыла зь яго каклет ны масьлі.* Арцёмаўка Міласл.

**КАКО́ШНІК**, -а, *м.* Галаўны ўбор, наметка. *Яна сягоньня хадзіла біз какошніка.* Лапаціна Мсцісл.

ҚАКШУН, -а, *м.* Нараст на дзераве. *На дарозі лі Клімавіч раней стыяў вялікі стары дуб, ны баку якога вырас какшун вяршкоў у пяць.* Вітрунь Қасцюк.

ҚАКЫТАЦЬ, *дзеясл.* Сакатаць. *Қурыца какочыць, яечка зьнесьць хочыць.* Тур'я Краснап.

КАЛАКАЛУХА, -і, *ж.* Чаромха. *Пойдзем у лес, какалухі наломім.* Янава Раснян.

ҚАЛАКАЛУША, -ы, *ж.* Чаромха. *Қала рэчкі расьцець калакалуша.* Хоцімск.

ҚАЛАКУШКА, -і, *ж.* Чаромха. *На стале стаяў букет калакушкі.* Қасцюковічы.

ҚАЛАНІЦА, -ы, *ж.* Қаланіца, мазь, якою мажуць калёсы. *Қаланіца ўся вышла, і калёс падмазыць нечым.* Куляшоўка Қалінінщчына.

ҚАЛАНТЫРІЦЬ, *дзеясл.* Выпрошваць, клянчыць. *Што ж цыганкам дзелаць? Работаць яны ня ўмеюць і ня хочуць, дык во, ходзюць пы сялу ды калантырюць.* Дубеец Қасцюк.

ҚАЛАТОУҚА, -і, *ж. бат.* Қалатоўка. *Қалатоўка белым цьветым цьвіцець, а расьцець у лясох.* Хвёдараўка Краснап.

ҚАЛАУРОТ, -а, *м.* Қалаўротка, самапрадка. *Қалаўрот мой сапсуваўсь, і прясьць не на чым.* Вярбоўка Раснян.

ҚАЛАЦІЦЦА, *дзеясл.* Қалаціцца, дрыжаць. *Ат холаду пасінеў і калоціцца, бяспрытульны, бедны хлапец.* Сохана Мсцісл.

ҚАЛДОБІНА, -ы, *ж.* Қалдобіна, выбоіна, яма з вадою на дарозе, на лузе, яма на рацэ. *Улез у нейкую калдобіну.* Палуж Краснап. *Қаток упаў у калдобіну, і воз абярнуўся.* Бяседавічы Хоцім.

ҚАЛДОУБІНА, -ы, *ж.* Яма з вадою на дарозе, каля ракі, на лузе, яма на рацэ. *Рыбакі ў калдоўбіне пыймалі шчуку.* Гібалы Қасцюк. *У калдоўбіні ў етый німа пратоку.* Хвёдараўка Краснап.

ҚАЛДУНЫ, -оў, *мн. л.* Қалдуны, яда з мукі і мяса [пельмені]. *Сёньня ў нас ны вячэру будуць калдуны.* Тур'я Чэрык.

ҚАЛДЫБАЦЬ, *дзеясл.* Кульгаць. *Я злымаў летысь ў млыну нагу і с таго часу пычаў калдыбаць. Ён з подыўна, як я тольці і помню, ходзіць, калдыбаючы аднэй нагой.* Лешчынка Мсцісл.

ҚАЛЕҚА, -і, *м.* 1. Қалека, чалавек з фізічным недахопам. *Яму ны вайне нагу ўрэзылі, дык ён і зыстаўся навік калекыю.* Арцёмаўка Міласл. *Рукою ў мылацілку пыпаў, дык усі пальцы патрушчыла, калека цяпер.* Парадзіна Мсцісл. 2. Рыба мень, налім. *Пыймаў пыд корчым калеку.* Палуж Краснап. *Чуць не злавіў калеку рукамі, але ж усьлізнуў.* Бародзькава Қрыч. *Мы нылавілі многа калек.* Расна.

ҚАЛЕНА, -а, *н.* Қалена. *Выцяўся ў пень да калена разьбіў да крыві.* Барысавічы Клім. *А ў бяседзі стары сядзіць,// Ны каленіх гусьлі дзяржыць.* З нар. песні, М. Г. 101.

ҚАЛЕНЧЫСТЫЙ, *прым.* Қаленчаты. *У мяне ёсць медныя каленчыстыя трубка, хырыша будзіць для апырата сымагонку гнать.* Бяседавічы Хоцім.

ҚАЛЕЧЫЦЬ, *дзеясл.* Қалечыць, рабіць калекаю. *Тут толькі коні калечыць ды калёсы лымаць пы такой дарозі, каб ны яе агонь.* Сохана Мсцісл.

ҚАЛЕСҚІ, -аў, *мн. л.* Қаляска. *Пысадзіў дзіця ны калёскі ды павёз.* Шарэйкі Қасцюк.

ҚАЛЕСЫ, -аў, *мн. л.* Қалёсы, воз. *Якуб, запражы кыня ў калёсы.* Чыгрынаўка Раснян. *Ідзі сядзь ны калёсы.* Қасцюковічы. *Бацька ныгрузіў поўны калёсы сена.* Лешчынка Мсцісл. *Запряжы калёсы і прывязі з поля снапы!* Дубеец Қасцюк.

ҚАЛІ, *прысл.* Қалі. *Қалі я ў цябе брала тоя рэшыта? Адчапіся ты ат мяне.* Новае Сяло Мсцісл. *Қалі ты сторaж, дык твой абывязык кырауліць сад.* Старае Сяло Мсцісл. *Қалі аплашыцца, дык уся справа загініць.* Қанічы Қасцюк. *Қалі б у мяне былі грошы!* Хоцімск.

ҚАЛІВА, -а, *н.* Қаліва, зерня. *Як прыйшлось сеяць, жыта — а ні каліва!* Парадзіна Мсцісл. *У бульбу ўкінулі тры калівы фасолі.* Слаўнае Мсцісл.

ҚАЛІНА, -ы, *ж. бат.* Қаліна. *Ны каліне шыпушкі бальшэя, скора і цьвісьць будзя.* Парадзіна Мсцісл.

ҚАЛІ-НЕБУДЗЬ, *прысл.* Қалі-небудзь, у нявызначаны час. *Қалі-небудзь, зрэдзь, прыдзіць ка мне, пыжалкуіцца ды пойдзіць.* Ушакі Чэрык.

ҚАЛІ-НІҚАЛІ, *прысл.* Қалі-нікалі, зрэдку. *Қалі-нікалі зойдзіць пысядзіць якую гадзіну, а каб часта хадзіць то не: кажа, часу німа.* Радзівонаўка Мсцісл.

ҚАЛІНІЦА, -ы, *ж. бат.* Қаліна. *Ягады каліныцы гыркавы, паетыму іх ядуць узімку, калі яны памерзнуць.* Пірагова Мсцісл.

ҚАЛІНҚА, -і, *ж.* Памянш. ад каліна. *Вунь пад тэй калінкыю мы ўчора з Зосяй сядзелі.* Любанаўка Қалінінщчына. *Қалінка, калінка, || Ягыдка чырвона.* З нар. песні, М. Г. 12.

ҚАЛІНОҚ, -нка, *м.* Струнны музычны інструмент, балалайка. *Узяў калінок і зайграў. І скрыпкі ні було, толькі калінок — пыбрынчалі трохі ды пайшлі.* Хвёдараўка Краснап.

ҚАЛІНЫВЫЙ, *прым.* Қалінавы, зроблены з каліны. *Қалінывый чыўнок лёгкі і добра бегаіць.* Ганнаўка Клім. *Қаб на той рецці мост калінывый.* З нар. песні.

ҚАЛІСЬ, *прысл.* Қалісь, некалі, раней. *Қалісь было дрэннае жыццё.* Юшкавічы Раснян. *На тым полі была калісь-та грачыха, цяпер яно аблoжнае.* Пірагова Мсцісл. *Қалісь-то быў у нашай вёсцы хвершыл.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ҚАЛІТА, -ы, *ж.* Қаліта, мяшочак на грошы. *Над сіратою — бог з калітою.* Қамароўка Қрыч.

ҚАЛІУҚА, -а, *н.* 1. Памянш. да каліва. *Лядзі ты! Лі дарогі каліўка гароху вырысла.* Юшкавічы Раснян. 2. Трохі, нямножка. *Ці ёсць у цябе мука? А каліўка зысталося яшчэ.* Горкі Краснап.

ҚАЛОДА, -ы, *ж.* 1. Қалода, адрэзак тоўстага бервяна. *Қалоду ўскаціў на воз, дык ледзь конь вязець.* Халдзееўка Хоцім. 2. Набор ігральных карт. *Стусуваў калоду карт і пычаў здываць.* Парадзіна Мсцісл.

ҚАЛОДЗІЖ, -а, *м.* Қалодзеж, студня. *У калодзіжы выда студзёныя.* Пацкава

Мсцісл. *Пойдзім у гэсты калодзіш зы вадой; тут выда лепшыя.* Ушакі Чэрык.

КАЛО́ДЗІСЬ, -я, *м.* Калодзеж, студня. *Калодзісь дужа далёка, пноха зы вадою хадзіць. Нада выкыпаць свой калодзісь. Нільзя цяпер дыстаць біз вярёўкі вады с калодзіся: выга пылумалысь.* Арцёмаўка Міласл.

КАЛО́ДКА, -і, *ж.* Калодка, невялікі адрэзак бервяна. *Пыдай яму пад ногі калодку.* Бяседавічы Хоцім. *Пасоб-ка ты мне калодку атпіліць.* Пірагова Мсцісл.

КАЛО́ША, -ы, *ж.* Калоша, штаніна. *У Зыхара ў штынах адна калоша пырвалася.* Гібалы Касцюк.

КАЛО́ШНЯ, -і, *ж.* Калоша, штаніна. *Пашыў штаны, што калошні валочуцца.* Ельня Краснап.

КАЛО́ШЫ, -аў, *мн. л.* Галошы. *Я купіла сабе новыя калошы на баціңкі.* Хоцімск.

КАЛО́ЦЬ, *дзеясл.* Калоць. *Калоў дровы, дык аськялёнык пыпаў у вока.* Хвёдараўка Краснап.

КАЛПА́К, -а, *м.* Валеная шапка, лямцавая [войлачная]. *Што гэста нашы мужчыны калпакі насіць сталі, і галовы і ногі ў валянкі адзяваюць.* Барысавічы Клім.

КАЛПЫ́К, -а, *м.* Гарэлка ў лямпе. *Нада купіць новый калпык у лямпу, ато етый сапсуўся і лампа капціць.* Слаўнае Мсцісл.

КАЛУПА́ЦЬ, *дзеясл.* Калупаць. *Ні калупай хлеба пальцамі, вазьмі нож ды атрэж.* Рэкта Калініншчына.

КАЛУ́ПІНА, -ы, *ж.* Месца, выкалупанае ў чым-небудзь. *Хто ета ўжу кашу браў з махоткі? Тут ужу калупіна, нехта ўжу кулупаў тут.* Арцёмаўка Міласл.

КАЛЫ́ГЛУЗ, -а, *м.* Балаўны хлапец, шаланец. *Дай добря калыглузу етыму.* Хвёдараўка Краснап. *Калыглуз етый нагу сабе разьбіў.* Стары Дзедзін Міласл.

КАЛЫ́СКА, -і, *ж.* Калыска, люлька. *Дзіця сьпіць у калысцы.* Кісялёва Буда Калініншчына.

КАЛЬЦО́, -а, *н.* Пярсцёнак. *Згубіла я сваё кальцо нейдзя.* Іванаўка Хоцім.

КАЛЬЧА́ГА, -і, *м.* Кульгавы чалавек. *Ён зваліўся з печы, як быў малый і астаўся кальчага на ўсё жыцьцё.* Пірагова Мсцісл. *Міхасю ў лесі нагу бервяном злымала, і цяпер ён ходзіць кальчагый.* Барысавічы Клім.

КАЛЬЧЫ́ГА, -і, *м.* Кульгавы чалавек. *Кальчыга кылдыгая.* Хвёдараўка Краснап.

КАЛЮ́ЧКА, -і, *ж.* Дзіда, калючка. *Падажджы, я калючку ў нагу зыгнаў, выцігнуць нада.* Шумячы.

КАЛЮ́ЧЫЙ, *прым.* Калючы. *Мост абведзены калючым дротам.* Барысавічы Клім. *Іжокіла — калючыя трыва.* Новае Сяло Мсцісл.

КАМЕ́ДЗІЯ, -і, *ж.* Камедыя, смехатворная рэч. *Во камедзія была! Мы жываты пынырвалі ат сьмеху.* Арцёмаўка Міласл.

КАМЁЛАК, -лка, *м.* 1. Здаровы моцны кавалак дрэва. *Вазьмі вось етый камёлак ды пыдлажы пыд вагу.* Халдзеєўка Калініншчына. 2. Здаровы чалавек. *Ета камёлак, а не чалавек, і хвароба яго не бярэць.* Гібалы Касцюк. *Хлопчык здаровы, як камёлак.* Палуж Краснап.

КАМЕ́ЛЬ, -мля, *м.* Камель, пень. *З старых хваёвых камлёў гоняць жывіцу.* Барысавічы Клім. *Камель усягды таўсьцей ад макушкі.* Пірагова Мсцісл.

КАМЕ́ННЫЙ, *прым.* Каменны, зроблены з каменя. *У етыга чылавека каменныя серца: прасі ні прасі — ні пыжалеіць.* Даленшчына Крыч.

КАМЕ́НЫК, -нка, *м.* Поўны крэпкі хлопчык, камёлак. *Твой Іванька настыяшчый каменык.* Хвёдараўка Краснап.

КА́МЕНЬ, -я і -мня, *м.* Камень. *Лі дарогі ляжыць вялікій камень.* Даленшчына Крыч. *Як шурнуў ён камням у лужу, абрыскаў мяне ўсю.*

КАМЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Каменне. *Якоя ў нас поля! Пясок ды каменьня.* Шарэйкі Касцюк.

КАМЕ́НЬЧЫК, -а, *м.* Памянш. ад камень. *Рыгор кінуў каменьчыкам у карову ды вока выбіў.* Маляцічы Крыч.

КАМІ́НКА, -і, *ж.* Каменка, печка ў лазні, зложаная з каменія. *Паціху там тупый, ато камінку зываліш, дык зноў лазьні нільзя будзіць тапіць.* Бяседавічы Хоцім.

КАМІ́НЬ, -мня і -я, *м.* Камень. *Ны нашым полі ляжыць вялізный камінь.* Багацькаўка Мсцісл.

КАМІ́СІЯ, -і, *ж.* Камісія. *Прышла камісія аглідаць урыджай ны карню.* Сохана Мсцісл.

КАМЛЁМ, *прысл.* Хутка раптам. *Аўціх камлём усхапіўсь, ік увідзіў, што конь у авёс пайшоў.* Шумячы.

КАМЛЁТ, -а, *м.* Спадніца-саматканка (з сукна з портам). *Цётка надзела камлёт.* Даленшчына Крыч. *Усе дні ў камлёці ходзіць, хоць і летым.* Касцюшкавічы Крыч. *Андырак дыражэй зы камлёта.* Кокатава Мсцісл. *Ганна выткала сабе камлёт.* Расна. *У нас носяць камлёты з кыбатым.* Шумячы.

КАМЛЫ́ШКА, -і, *ж.* Грудок, кавалак засохлай зямлі на ворыве. *Барынывай-барынынай, і ўсё роўна камлышкі зысталіся ніразьбітыя.* Стары Дзедзін Міласл.

КАМО́К, -мка, *м.* Камлышка, грудок. *Нада яшчэ раз бырынамі праехыць пы пахыці, ато камкі зьверху ліжаць нірасьцёртыя.* Арцёмаўка Міласл.

КАМО́РА, -ы, *ж.* Камора, кладоўка. *А плакыла вінныя чара ў віннаре, ‖ А плакыла Ганутычка ў каморе.* З нар. песні, М. Г. 33.

КАМО́РКА, -і, *ж.* 1. Каморка, кладоўка. *Схадзі, Янка, у каморку, сала прынясі.* Новыя Капачы Мсцісл. *Зынясі ета ў каморку.* Горкі Краснап. 2. Пакойчык. *Янка адпачывае ў каморцы.* Малюшын Краснап. *Хворый ляжыць у каморцы.* Шумячы.

КАМО́РНІК, -а, *м.* Каморнік, землямер. *Каморнік абмерыў поля пыд сыўгас.* Хоцімск. *Каморнік ужо зямлю прыехаў мерыць.* Краснаполле. *Прыехаў каморнік мерыць зямлю.* Сохана Мсцісл.

КАМУНІ́СТ, -а, *м.* Камуніст. *У яго сын камуніст.* Радзівонаўка Мсцісл.

КАМУ́ШША, -а, *н. зборн.* Неразбітыя груды зямлі, камлыгі. *Камушша цяжка скарадзіць, асабліва калі засохніць, тады іх ніяк ні разьбіць.* Брылёўка Краснап.

КАМЫ́, -оў, *мн. л.* Камякі, густая каша з бульбы. *Лукер'я зварыла камы, дык мы гырачых зьелі.* Прыпёчына Калінiншчына. *Дзеці ядуць камы.* Ганнаўка Клім. *Дай нам, маці, камоў з мылаком.* Маляцічы Крыч. *У вялікі пост матка дзелаіць камы з алеям.* Пірагова Мсцісл.

КАМЭ́ДЗІЯ, -і, *ж.* Камедыя, смех. *Пятрёк ік пычанець гываріць, дак ат сьмеху ўсі выляюцца: камэдзія зь іго!* Шумячы.

КАМЭ́ДНА, *прысл.* Смешна, камічна. *Каб вы зналі, як ён камэдна гываріць.* Сутокі Мсцісл.

КАМЯ́ГА, -і, *ж.* Карыта. *Табе толькі сь сьвіньнямі ў камязі есьці!* Ушакі Чэрык. *Паіць коні зь відра нільзя, нада наліваць ваду ў камягу.* Карма-Пайкі Краснап.

КАНАВА́Л, -а, *м.* Канавал. *Сяньні канавал зьлягчаў нам жырябка.* Дубеец Касцюк.

КАНА́ПА, -ы, *ж.* Канапа. *Пысьцялі Міхасю, маці, ны канапе, а я пайду спаць у сена.* Крычаў. *Я заўсёды сплю ны канапе.* Халдзееўка Хоцім.

КАНВЕ́РТ, -а, *м.* Канверт. *Іна пырвала канверт, вынула пісьмо і стала чытаць.* Арцёмаўка Міласл. *Узяў я тую атліплую марку ды зноў наляпіў на канверт.* Пірагова Мсцісл.

КА́НДЗЕР, -у, *м.* Ячменная ці пшанічная негустая каша. *Сяньні зварыла кандзер, прыходзь — пычастую.* Восаў Краснап.

КАНДЫ́БА, -ы, *м.* Кульгавы чалавек. *Во пайшоў кандыба нейкій.* Гусарка Клім.

КАНДЫ́БКА, -і, *ж.* Памянш. да кандыба. *Вунь пышла Тыцяна-кандыбка.* Шумячы.

КАНДЫ́БЛІК, -а, *м.* Памянш. ад кандыба. *Пыглядзі, Сайка-кандыблік кандыбыіць.* Горкі Краснап.

КАНДЫ́БНІКІ, -аў, *мн. л.* Коржыкі. *Кандыбнікаў напікла.* Маластоўка Краснап.

КАНДЫ́БЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Кандыбаць, кульгаць, налягаць на адну нагу. *Што ты стаў кандыбаць? Ныга баліць?* Шумячы. 2. Ісці стомлена. *Далека ішлі, замарыліся, але-ткі кандыбылі.* Там жа.

КАНЕ́Ц, -а, *м.* Канец. *Заехаў ны канец дзяреўні ды здумыў, што кайстру з хлебым забыўся.* Рэкта Калінiншчына. *У канцы нядзелі, у пятніцу ці ў суботу, я паеду ў горыд.* Слаўнае Мсцісл.

КАНЕ́ШНЯ, *прысл.* Вядома, бясспрэчна, абавязкова, зразумела. *Валет, канешня, б'ець сёмку.* Бяседавічы Краснап. *Канешня, трэба так зрабіць.* Хоцімск. *Дадуць больш, дык, канешня, ні 'дкажысься.* Арцёмаўка Міласл.

КАНО́ПЛІ, -пель, *мн. л. бат.* Каноплі. *Ого! Каноплі сеіць карысна: зь іх жа будзіць і пінька ны вяроўкі і алей з насеньня.* Ушакі Чэрык. *Каноплі бяруць позна восеньню, тады ж, калі кыпаюць бульбы.* Пірагова Мсцісл. *Зыгарэнілі мае каноплі.* Хвёдараўка Краснап.

КАНПЕТУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Частавацца, старацца есці. *Канпетуйцесь, ато ж вы йшчэ нічога ня елі.* Шэвялёўшчына Мсцісл.

КА́НТАР, -а, *м.* Бязмен. *Сходзі ды Сьцяпана ды прынясі кантар: лён зважыць нада.* Тур'я Чэрык.

КАНУ́Н, -у, *м.* Сыта, разведзены мёд. *Мой бацька ўзяў мёду, каб прыгатаваць кануну.* Вусце Чэрык.

КАНФУ́ЗІЦЬ, *дзеясл.* Бянтэжыць, уводзіць у сорам. *Ні канфузь ты яго, бач, як ён пачырванеў ат тваіх слоў.* Кокатава Мсцісл.

КАНХВЕ́ТА, -ы, *ж.* Цукерка. *Прывёз татка гасьцінцу з горыду — быранак і канхвет.* Пірагова Мсцісл.

КА́НЧЫР, -а, *м.* Няроўнасць на дарозе ад каранёў дрэваў. *Ой, як цяжка ехаць па етым канчырым.* Кажамякіна Краснап.

КАНЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Дакончыць, скончыць. *Ці ня ведаіце вы дзе муляря, каб памог дом канчыць?* Ушакі Чэрык.

КАНЬДЗЮ́К, -а, *м.* Страўнік, жывот. *Яшчэ хочыш смашныга: набій чым-небудзь каньдзюх, ну й добря.* Дубеец Касцюк. *Ну й каньдзюх у цябе, як у кыня!* Тур'я Чэрык.

КАНЬКІ́, -оў, *мн. л.* Канькі. *Якуб коўзыўся на каньках.* Шарэйкі Касцюк.

КА́НЬКЫЦЬ, *дзеясл.* Прасіць чаго з слязамі, выпрошваць. *Ні канькый луччы, ато 'бсяку.* Куркаўшчына Мсцісл. *Але ж і чылавек! Свайго поўна, а ён канькыя, каб капейку далі.* Парадзіна Мсцісл. *Ні канькый дырма, бо ні дам.* Кокатава Мсцісл.

КА́НЮХ, -а, *м.* Ястраб, каршун. *Канюх ляцеў нізка над зямлёй, добра што піскляты былі ў дваре.* Пячонкі Раснян.

КАНЮ́Х, -а, *м.* 1. *заал.* Каня, птушка. *Во канюх, знаць, ніколі ні напьецца: усё крічыць «піць».* Арцёмаўка Міласл. 2. Хлапец, што водзіць коней на пашу. *Майму сыну ўжо шэсьць гадоў, самы ўжо канюх чэріз гады два будзіць.* Слаўнае Мсцісл. *Канюх вельмі стаміўся, бегаючы за конямі.* Міцькаўшчына Мсцісл.

КАНЮШЫ́НА, -ы, *ж. бат.* Канюшына. *Накасі конім канюшыны.* Бялішчына Мсцісл.

КАПА́, -ы, *ж.* 1. Капа (сена). *Во склаў капу, ні дытыркайсь, ато рызваліцца.* Парадзіна Мсцісл. *Склаў дзьве капы, і дождж пайшоў, усё сена зымачыў.* Халдзееўка Калінiншчына. 2. Шэсцьдзесят адзінак. *Досьвіту капу снапоў змалацілі.* Бобрыкі Мсцісл.

КАПАНІ́ЦА, -ы, *ж.* Матыка. *Нясі капаніцу, а я вады ныбяру, ды пайдзём на поля.* Іванаўка Хоцім.

КАПА́ЦЬ, *дзеясл.* Капаць. *Ляксей Янкый памёр, пашлі магілу капаць.* Пірагова Мсцісл.

КА́ПАЧКА, -і, *ж.* Кропелька. *І пывісла ў іго на носі капачка.* Ушакі Чэрык.

КАПЕ́ЙКА, -і, *ж.* Капейка. *Пайду ў горыд, якую капейку зырабіць нада.* Вародзькава Крыч. *Ды саломы жменька — капейка, || А сена клачок — пітачок.* З нар. песні, М. Г. 37.

КАПЁЛЫК, -лка, *м.* Месца на печы каля каптура. *Пылажы сярнічкі ны капёлык.* Аршаншчына.

КАПЕ́НЬ, *выкл.* Капыль (ад капа́ць, капану́ць). *Капень нагою, а там грыб!* Палуж Краснап.

КАПЕ́Ц, -пца, *м.* Капец. *Абкыпаць капцы трэба, бо картошка зыцячэ.* Зарэчча Мсцісл.

КАПЕ́ШКА, -і, *ж.* Невялікая капа (сена). *Зь етыга кліна ныграблі дзьве капешкі сена.* Хвёдараўка Краснап.

КАПІ́Л, -а, *м.* Капыл, шавецкая калодка. *Ны твае боты ў мяне і капіла ні знойдзіцца, нада хіба зьдзелыць.* Прыпёчына Калінiншчына.

КАПІТА́ЛКА, -і, *ж.* Сцяна ў хаце з бярвеньняў (унутраная). *Што ты будзіш у хаце капіталку рабіць? Навошта ета, з дошчык зьдзелый і ўсё.* Хвёдараўка Краснап.

КАПІТО́ШКА, -і, *ж бат.* Расліна. *У лузі расьцець многа капітошак.* Хвёдараўка Краснап.

КА́ПІШЧА, -а, *н.* Месца, дзе закопваюць здохлую жывёлу. Нова-Ельня Краснап.

КА́ПКА, -і, *ж.* 1. Капка, кропля. *Ны сучкох, посьлі дождж, віселі вялікія капкі.* Ушакі Чэрык. 2. Пячурка ў печы, куды кладуць сушыць анучы. *Вынь з капкі анучы.* Крычаў.

КАПНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Капнуць. *Ні тчыняй заслонку, вугальля я загрібла ў пячурку і засыпала залою: капні там зь левыга боку, дык і закурiш.* Арцёмаўка Міласл.

КАПО́Т, -а, *м.* Капота. *Мой капот, вісеўшы ў чулані, пычаў трухнуць.* Лешчынка Мсцісл.

КАПРІ́ЗНЫЙ, *прым.* Капрызны. *Вялікыя дзеўка, а так капрізна, нічым ні дыгадзіш.* Слаўнае Мсцісл.

КАПРІ́ЗЫ, -ыў, *мн. л.* Капрызы. *Дзіцёнык ня хворый, а ўсё карёжыцца, плачыць, етыя капрізы нада чым-нібудзь выгыняць.* Слаўнае Мсцісл.

КАПТА́Н, -а, *м.* Капота. *Вунь тая, што ў зялёным каптані сядзіць на прызьбі.* Студзянец Касцюк.

КАПТУ́Н, -а, *м.* Паўшубак, кажух. *Надзень каптун, цяплей будзіць.* Вялішчына Мсцісл.

КАПТУ́Р, -а, *м.* 1. Самая высокая пярэдняя частка печы. *Кот узыбрайся ны каптур і ўгарэў.* Аршаншчына. 2. Абажур. *На лямпу надзелі каптур.* Краснаполле. 3. Накрыўка на чыгун для самагонкі. *Надзень на цугун каптур.* Хвёдараўка Краснап.

КАПУ́СТА, -ы, *ж.* Капуста. *Сяньні чорный трус згрыз два кычаны капусты.* Бяседавічы Хоцім.

КАПУ́СЬНІК, -а, *м.* Капуснік, расліна лугавая. *Капусьнік расьцець на лузе, цьвіцець белым цьветым, як дзед.* Хвёдараўка Краснап.

КАПЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Дыміць, задымліваць, вяндліць. *Ніякыга з цібе пуцця ні будзіць у жызьні — во гэтак і будзіш капціць неба.* Ушакі Чэрык.

КАПШУ́К, -а, *м.* Капшук, кісет на тутунь. *Капшук тыбаку насыпаў і на дзень ня хопіць.* Мсціслаў.

КАПШУЧО́К, -чка, *м.* Лямпачка без шкла. *Зыпалі хоць капшучок, усё відней трохі будзець.* Барысавічы Клім.

КАПЫ́Л, -а, *м.* 1. Капыл, калодка шавецкая на боты, а таксама на лапці. *Гэты капыл якраз ны маю нагу.* Тур'я Чэрык. *Бацька надзеў ны капыл лапаць і стаў яго падплітаць.* Гібалы Касцюк. 2. Капыл, дубовы брусок, што ўстаўляецца ў полаз, а за яго закручваецца вяз для злучэння палазоў. *Капыл у санях пад'еўся, нада новы ўставіць.* Ташна Клім. *Накыліскі рассохлісь, і капылы павыіжджалі, так што на етых сынях ні паедзіш.* Бяседавічы Хоцім. *Капылы ў сані робяцца дубовыя.* Пухнава Расням.

КАПЫ́ЛЬЛЯ, -я, *н. зборн.* Капылы. *Сані разлымаліся, а капыльля цэла.* Расням.

КАПЫ́Т, -а, *м.* Капыт. *У майго кыня капыт раскалоўсь, падкуваць нада.* Камароўка Крыч.

КАПЫ́ЦІЦЦА, *дзеясл.* Быць упартым. *Яго просяць, а ён ішчэ й капыціцца, ні хочыць ісьці.* Шумячы.

КАПЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Капаць. *Цёпла стала, сьнег асеў, скора з стрех станіць капыць.* Арцёмаўка Міласл.

КАПЭ́ЛІЯ, -і, *ж.* Гурт, дружына, кампанія. *Дзеўкі целай капэліяй пашлі ў ягады.* Рэкта Калінiншчына.

КА́РА, -ы, *ж.* Кара, пакаранне. *Яго так білі, здаецца, ніхто б такія кары ня сьцерпіў.* Слаўнае Мсцісл.

КАРА́, -ы, *ж.* Кара. *На вербі кара адсычала, можна дудкі зьнімаць.* Гібалы Касцюк.

КАРАБЕ́ЛЬ, -бля, *м.* Карабель. *Ой ды на сінім моры ‖ Карабель плывець, ‖ Карабель плывець, ‖ Аж выда равець.* З нар. песні.

КАРА́БЛІК, -а, *м.* Памянш. ад карабель. *Міхась зьдзелый сабе караблік — пускаець ны ваду.* Шарэйкі Касцюк.

КАРАВА́Й, -ю, *м.* Каравай, хлеб, які пякуць на вяселле. *Каравай ляжыць на стале, а гасьцей яшчэ німа.* Журбін Бялынкав. *К свадзьбі сьпяклі вялікій каравай.* Карма-Пайкі Калінiншчына.

КАРАГО́Д,- а, *м.* 1. Карагод. *Дзеці гулялі ў карагод.* Шарэйкі Касцюк. 2. Матавіла. *Прынясі карагод, будзем ніткі матаць.* Барысавічы Клім.

КАРАЛІ, -яў, *мн. л.* Каралі, пацеркі. *Сяньня Васіль як хваціў мяне за шыю, неяк пыдчапіў за нітку, пырваў, і ўсі каралі рассыпаліась.* Добрае Мсцісл.

КАРАНІ́К, -а, *м.* Вулей з кары. *Пчолы вылецелі з караніка.* Роськаў Калінiншчына.

КАРАНТЫ́Ш, -а, *м.* Малы, нізкага росту. *Брат мой зусім карантыш.* Пацкава Мсцісл.

КАРАСІ́НІЦА, -ы, *ж.* Лямпа, газніца. *Карасініца вісіць вісока пад стольлю.* Крычаў.

КАРБО́НКА, -і, *ж.* Скарбонка, скрыначка з дзіркай у верхняй накрыўцы, куды кідаюць грошы. *Раней з карбонкай хадзілі зьбіраць грошы на царкву.* Вінаградаў Міласл.

КАРВА́ЦЬ, -і, *ж.* Ложак. *Ліжаў ны самым брыжу кырваці, аж бакі зыбалелі за ныч.* Парадзіна Мсцісл.

КАРДО́Н, -у, *м.* Картон. *Сыпагі ладныя, толькі абцасы з кардону.* Мсціслаў.

КАРДО́ПА, -ы, *ж.* Бульба. *Ідзі на пыграбню і прынясі кардопы.* Бялішчына Мсцісл.

КАРДО́ХЛІНЬНЯ, -я, *н. зборн.* Каліві бульбы, бульбянік. *Кардохля зрадзіла, аж кардохліньня выліглa, надта ўжо вялікыя вырысла.* Стары Дзедзін Міласл.

КАРДО́ХЛЯ, -і, *ж.* Бульба. *Сваіх кардохыль нізхват ны пасеў, нада яшчэ купіць.* Арцёмаўка Міласл.

КАРЁЖЫЦЦА, *дзеясл.* Мяцца, скручвацца, згінацца. *Нешта ён стаў карёжыцца, знаць, прыстудзіўсь, дык во гнеўь яго, і халонна яму, аж зубамі ляскыіць.* Арцёмаўка Міласл.

КАРЕ́ЛЫЙ, *прым.* Закарэлы, жорсткі. *О, ён чылавек карелый: усё роўна, як зьвер лютый.* Гібалы Қасцюк. *Харакцір у яго карелый.* Гібалы Қасцюк.

КАРЕ́ТА, -ы, *ж.* Карэта. *Раней архіярэй езьдзіў у кареці чацьвёркай, а січас пешкі ходзіць.* Куравічы Мсцісл.

КАРЕ́Ц, -рца, *м.* Карэц, кружка, конаўка. *Вазьмі карец і засілі мне вады.* Гібалы Қасцюк. *Напіся там з кырца.* Іванаўка Хоцім.

КАРЖЫ́, -оў, *мн. л.* Каржы. *Сьпікла каржоў, толькі етым і сыта.* Хвёдараўка Краснап.

КАРЛІКУВЫЙ, *прым.* Нізкі, карлікавы. *У яго карлікувый рост: аршын з шапкый ад зямлі.* Бяседавічы Хоцім.

КАРМАЗЫ́НАВЫЙ, *прым.* Кармазінавы, пунсовы. *Зачырванелась яна ат сорыму, ну проста кармазыныеыя стала.* Ушакі Чэрык.

КАРМІ́ЦЬ, *дзеясл.* Карміць. *Як у лоў ехыць, дык і сыбак карміць.* Парадзіна Мсцісл. *Дзяцей поўна хата, а карміць нечым.* Буда Рагатая Міласл.

КАРНАВУ́ХІЙ, *прым.* Карнавухі, з адрэзаным вухам. *Сьвіньнёнык кырнавухій.* Брылёўка Краснап.

КАРНІ́З, -а, *м.* Карніз. *Пыд стольлю пы сцяне карніз вывідзен.* Высокі Бор Краснап.

КАРО́БКА, -і, *ж.* Скрыначка, пенал. *У яго каробкі було два карандашы.* Шарэйкі Қасцюк.

КАРО́ВА, -ы, *ж.* Карова. *Карова зарыкала ў пуні.* Палуж Краснап. *Бяжы аччыні фортку, карова прішла, зачыні ў пуню.* Новыя Қапачы Мсцісл.

КАРО́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Выстаўляць з сябе. *Дурыка карожыць.* Хвёдараўка Краснап.

КАРО́ЛЬ, -я, *м.* Кароль, карта. *Я схадзіў адаму, а ён забіў яе каралём.* Хвёдараўка Краснап.

КАРО́МІСЕЛ. -сла, *м.* Каромысла. *Ну і вёдры ж нясецъ, аж каромісел гнецца.* Бяседавічы Хоцім. *Нада зьдзелыць каромісіл насіць ваду ны плічах.* Слаўнае Мсцісл.

КАРО́МІСЬЛІК, -а, *м.* Каромысла, брусок, да канцоў якога прывязваюцца вяроўкі [гужы], а сярэдзіна — да плуга. *Хто ж так пашыць у калена, аж каромісьлік зламіўся.* Бяседавічы Хоцім. *Каромісьлік у баране добры.* Пухнава Расням.

КАРО́НКІ, -нак, *мн. л.* Карункі, кружавы. *Дзяўчына вяжыць каронкі.* Стары Дзедзін Міласл.

КАРО́СТА, -ы, *ж.* Кароста (хвароба). *Сьвярбяць рукі, мусіць, гэта завілась каро-ста.* Вярбоўка Расням. *Бач, гэта ж у цябе кароста! Дзёгцям маж.* Новае Сяло Мсцісл. *У дзяцей кароста на руках: нада зьмішаць дзёгыць з серыю і салым і мазыць.* Арцёмаўка Міласл.

КАРО́ТКІЙ, *прым.* Кароткі. *Набілкі зьдзелылі кароткія, і бёрда ня месьціцца.* Слаўнае Мсцісл.

КАРО́ТЧЫК, -а, *м.* Жаночая вопратка з сукна, шыецца кароткаю, крыху ніжэй пояса. *Маці надзела свой каротчык.* Ганнаўка Клім. *Нада ўжо ёй пашыць каротчык.* Бяседавічы Хоцім.

КАРО́ЎКА, -і, *ж.* Памянш. ад карова. *Кароўка мыя хуць маліенькыя, але ладныя, малочныя.* Шарэйкі Қасцюк. *Ны кірмашы прыспасобіла сабе кароўку.* Б. Хутары Краснап.

КАРПА, -ы, *м.* Уласнае імя Карп. *Бацьку яго звалі Карпа.* Арцёмаўка Міласл.

КАРПЕ́КА, -і, *м.* Уласнае імя Карп. *Яго звалі Карпа, а як ён быў маліенькій, дык прызвалі яго Карпека, а дзяцей завуць карпекіны.* Арцёмаўка Міласл.

КА́РТА, -ы, *ж.* Карта. *Хто ета пырвај ужо адну карту, дзісятку крастовую?* Шарэйкі Қасцюк.

КАРТАВА́ЦЬ, *дзеясл.* Картаваць, тасаваць карты. *Узяў карты ў рукі і пычаў картаваць.* Парадзіна Мсцісл.

КАРТА́ВІЦЬ, *дзеясл.* Картавіць, невыразна гаварыць некаторыя гукі. *Ты кажы добра, ато картавіць, як турак.* Крычаў.

КАРТА́ВЫЙ, *прым.* Картавы, такі, які не выгаварвае некаторых гукаў. *Ён картавы ды яшчэ гавора хутка, дык і ні рызьбярэш, што скызаў.* Мсціслаў.

КАРТАПЛЯ́НЬНІК, -а, *м.* Поле, дзе была бульба, бульбянішча. *Картапляньнік нада запыхаць ды авёс пасеіць на корм.* Шарэйкі Қасцюк.

КАРТО́ПЛЯ, -і, *ж.* Бульба. *Восінь ужо прышла — трэба картоплю кыпаць.* Ушакі Чэрык.

КАРТО́ШКА, -і, *ж.* Бульба. *Ныварылі мы сёньні здаровы чыгун картошкі ў мундзірах.* Ушакі Чэрык.

КАРТУ́З, -а, *м.* Шапка з казырком. *Я купіў сабе новы картуз.* Мышкі Расням. *Мне бацька купіў картуз, дык хуць дзьве гылавы ў яго сыджай.* Бяседавічы Хоцім.

КАРУ́ЗА, -ы, *ж.* Задзіра. *Гэта такая каруза — зь ім ніякі чорт жыць ня будзе.* Аршаншчына.

КАРУ́ЗЛЫЙ, *прым.* Карузлы, закарэлы, захудалы, благенькі. *Етыга цялёнка нечыга гудуваць, ён такей карузлый, што зь яго нічога ня будзіць.* Арцёмаўка Міласл.

КАРУ́ЗЬЛІК, -а, *м.* Невялікага росту, слабы чалавек. *Вышла замуж за нейкыга карузьліка.* Хвёдараўка Краснап.

КАРУ́ЛЬКІ, -лік, *мн. л.* Аер. *Улезь у возіра ды нарві мне карулік.* Малецічы Крыч.

КАРУ́НКІ, -нак, *мн. л.* Карункі. *Зьвяжы карункі ды прышый — красівей будзе.* Қасцюкавічы Крыч. *Дзяўчына вяжыць карункі.* Юшкавічы Расням. *Хацела карунак купіць, ды німа ў кыпіраціві.* Новае Сяло Мсцісл.

КАРХАЦЬ, *дзеясл.* Кархаць, кашляць. *Што ты кархаіш, як дзед стары!* Сабалёўка Калінішчына.

КАРХЕЛІК, -а, *м.* Чалавек, што часта кашляе, кархае. *Кархелік ты, ныдаеў ты мне з сваім кашлем, усе кархаеш і кархаеш.* Хвёдараўка Краснап.

КАРЦЕЦЬ, *дзеясл.* Карцець, хацецца. *Як празьнік, дык ужу і карціць яму выпіць, ня можыць удзіржацца: пасьледнію капейку прап'ець.* Арцёмаўка Міласл. *Во, яму так і карціць, каб што-небудзь злоя зьдзелыць.* Кокатава Мсцісл.

КАРЦІНКА, -і, *ж.* Малюнак. *Дзіцёнак прынёс абмаліваныя карцінкі з школы.* Пірагова Мсцісл.

КАРЧМА, -ы, *ж.* Карчма. *На старым шляху, на ростані, некылі стыяла карчма.* Людагошч Мсцісл.

КАРШЭНЬ, -я, *м.* 1. Каршэнь, карак, патыліца. *Матка ўдарыла сына ў каршэнь.* Гусарка Клім. 2. Удар у патыліцу. *Казаў табе — ня лезь, не паслухаў, дык і зырабіў каршэнь.* Там жа.

КАРЫ, -аў, *мн. л.* Падсанкі. *Сяньні я злымаў сваё кары ў лесі, дык і берввяна ня вывіз.* Цёмны Лес Раснян.

КАРЫСНА, *прысл.* Карысна. *Посьлі абеда карысна троху аддыхнуць.* Лешчынка Мсцісл.

КАРЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Карысць. *Якая мне карысьць ат яго бегаства, ён жа мне ні даець.* Арцёмаўка Міласл. *На што ета дзерыва зрубіў, яно нам карысьць прынасіла?* Канічы Касцюк.

КАРЫТА, -а, *н.* Карыта. *Авыць ад карыта, чужоя!* Жалезьніца Краснап.

КАРЫТЦА, -а, *н.* Памянш. ад карыта. *Рыскалолысь карытца.* Хвёдараўка Краснап. *За ныч ныкапыла целыя карыцца бярозувіка.* Бяседавічы Хоцім.

КАРЭЖЫЦЦА, *дзеясл.* Карэжыцца, ламацца. *Чаго ты карэжысься?* Палуж Краснап.

КАРЭЦ, -рца, *м.* Карэц, кружка, конаўка. *Прынясі карэц з вадою.* Лабанаўка Калінішчына. *Куды вы дзівалі карэц — нечым вады засіліць?* Віхраны Мсцісл.

КАРЮК, -а, *м.* Клей цяслярскі. *Пыдагрей карюк: будзім клеіць доскі, высыхлі ўжу.* Палуж Краснап.

КАСА, -ы, *ж.* Каса. *Нада ўсягды кыла касы зьвіраццa, ці ўсі грошы палучыў.* Пірагова Мсцісл.

КАСА, -ы, *ж.* 1. Каса, прылада касіць траву. *Выбірай касу, якую хочыш, на люба.* Маластоўка Краснап. 2. Каса, доўгія валасы. *Зыпляці ў касу стужку.* Бель Мсцісл. 3. Доўгае пяро ў хвасце пеўня. *На што ты вырваў касу ў пеўня.* Тур'я Чэрык. 4. Селязёнка.

КАСАЯ ПОЛЬКА, Полька. *У Ясенцы скачуць касую польку; скачуць наўскось.* Хвёдараўка Краснап.

КАСЕЦ, -сца, *м.* Касец. *Касец косіць зранку.* Міцькаўшчына Мсцісл.

КАСІЦА, -ы, *ж.* Памянш. ад каса. *Зыпляці ты выласы ў касіцу.* Стары Дзедзін Міласл.

КАСІЦЬ, *дзеясл.* Касіць. *Зломыныю касу нада спыяць, дык яшчэ гады два будзіць касіць луччы, як новыя.* Бяседавічы Хоцім. *Ідзі ў дзядзькі пупрасі прыкосься касіць грэчку.* Хвёдараўка Краснап. *Спасібам ні дбудзіш, а дні тры касіць будзіш.* Парадзіна Мсцісл.

КАСТРА, -ы, *ж.* 1. Кастрыца. *Кастры насыпалі лі дзьвярэй, што нельга ў баню зайці.* Маркаўка Хоцім. 2. Прыдзірлівы чалавек. *Чаго вязьніш, кастра, адчапісь!* Там жа.

КАСТЫЛЬ, -я, *м.* Палка з загнутай ручкай. *Старык ударыў сыбаку кастылём.* Малюшын Краснап.

КАСЫНКА, -і, *ж.* Касынка, хустачка на галаву. *Дзяўчынка надзела на гылаву касынку.* Пожар Калінішчына.

КАСЬНІЦА, -ы, *ж.* Каснік, істужка, што ўплятаюць у касу. *Расплілa косы, задумылась нешта і круціць касьніцы ны паліц.* Арцёмаўка Міласл. *Растрыпаліcь у цябе ўсі касьніцы.* Крычаў.

КАСЬНІЧКІ, -оў, *мн. л. бат.* Пырнік. *Пайду ў касьнічкі, хоць мех прынясу, ато карові німа чаго даць.* Халоблін Крыч.

КАСЬСЁ, -а, *н.* Кассё, касавіла. *Касу купіў, а Грышка ўчора касьсё зьдзелыў, цяперь і касіць можна.* Бязводзічы Мсцісл. *Што ты зы касец, калі кысься добрыга ні маіш?* Халоблін Крыч.

КАСЬЦЁРЬ, -тра *м. бат.* Мятліца, каласоўнік жытні. *Касьцёрь расьцець у жыце. Ад яго нада ачышчаць семя, ато чорный хлеб будзіць.* Пірагова Мсцісл. *Адзін касьцёрь зырадзіў.* Хвёдараўка Краснап. *Ці праўда ета кажуць, што касьцёрь етый, што ў жыці расьцець, дык ён з самых зірнят жыта расьцець.* Арцёмаўка Міласл.

КАСЬЦЮЛЬКА, -і, *ж.* Асцюлька, асцюк. *Пупала ў вока касьцюлька зь ячменя.* Хвёдараўка Краснап.

КАСЬЦЮМ, -а, *м.* Гарнітур, *Ён пыгырацкому пашыў сабе англічаньскій касьцюм.* Старае Сяло Мсцісл.

КАСЬЦЯНЫЙ, *прым.* Касцяны, зроблены з косці. *Касьцянэй гузік, а злумаўсь. Касьцяноя шыла, што патплітаюць лапці, называецца сьпіца.* Барысавічы Клім.

КАСЫЙ, *прым.* 1. Косы. *Дошка етыя ні гадзіцца: іна дужа кысая і ды таго сукуватыя.* Шумячы. 2. Касавокі чалавек. *Даніла пысля балезні касэй стаў, знаць, так і зыстанецца.* Палуж Краснап.

КАТ, -а, *м.* Кат, чалавек, што выконвае смяротныя прысуды. *Дзед бачыў, як рэвалюцыянерый казьнілі, як кат надзеў ім на шыю петлі, і іх павесілі.* Сохана Мсцісл.

КАТАРГА, -і, *ж.* Катарга, цяжкія работы. *Яго ж бацьку ны катаргу былі сыслалі, шэсьць гадоў быў, а пысьля рывалюцыі вярнуўсь і зьдзелыўся камісарым.* Радзівонаўка Мсцісл.

КАТАРЖНІК, -а, *м.* Катаржнік, чалавек, засуджаны на катаргу. *Катаржнік заўсёды зы сабою возіць тачку.* Міцькаўшчына Мсцісл.

КАТОК, -тка, *м.* Кола, калясо. *Каток на восі разлымаўся. Ступіца катка расчапілась.* Пухнава Раснян. *У цібе хутка каток з восі зьедзіць, стой!* Ушакі Чэрык.

КАТОРЫЙ, *займ* 1. Каторы. *Каторы ета*

*з вас зьдзелаў?* Гібалы Касцюк. 2. Які, той; той, што. *Каторыя панятнейшыя былі, дык іх чыста абыбралі.* Лютня Краснап.

КАТОЧЫК, -чка, *м.* Каточак, кольца. *Антось катаў каточык.* Шарэйкі Касцюк.

КАТУХ, -а, *м.* Катух, сплецены з саломы вялікі кошык. *Спляці ты катух для галубоў.* Крычаў. *Ваня! Ужо галубяняткі ў катуху пыявілісь.* Новыя Капачы Мсцісл.

КАЎДОБІНА, -ы, *ж.* Калдобіна, выбоіна на дарозе, яма з вадою на лузе, вір на рацэ. *Ні мог ты етыя каўдобіны 'б'ехыць, пы самыя ступіцы каткі ў гразь увагнаў.* Касцюковічы. *Ішоў уночы, як ускачыў у нейкую каўдобіну, чуць выбраўся.* Пірагова Мсцісл. *Кыля каўдобіны трохі травы ёсьць, а далей уся чыста высыхла ат сьпёкі.* Касцюковічы.

КАЎЗАЦЦА, *дзеясл.* Коўзацца, слізгацца (на лёдзе). *Хлапцы каўзаліся на лёдзе на санках і каньках.* Мазалава Мсцісл.

КАЎЗЕЛЬ, -я, *м.* Каўзель [каток]. *Дзеці пабеглі ны каўзель коўзацца.* Лапаціна Мсцісл. *Хлопцы зрабілі каўзель ды коцюцца з гары.* Палуж Краснап.

КАЎЗУНЬНЯ, -і, *ж.* Яечня. *Матка зжарыла каўзуньню.* Малюшын Краснап.

КАЎКА, -і, *ж.* Каўка, галка. *Каўка пупалыся ў сільлё.* Дуброўка Аршаншчына.

КАЎКНУЦЬ, *дзеясл.* Яўкнуць. *Маўчы і ні каўкні мне.* Хвёдараўка Краснап.

КАЎНЕР, -а, *м.* Каўнер. *Маці прішыла к сарочцы каўнер.* Ганнаўка Клім. *Во прачка: грязныя памазы так і зысталісь на каўняры.* Парадзіна Мсцісл. *Вышываю жыніху рубаху. Вышыла рукавы, каўнер і подыла трохі.* Арцёмаўка Міласл.

КАЎРЫГА, -і, *ж.* Каўрыга, скіба, акраец. *На табе каўрыгу мёду — зьеж.* Хвёдараўка Краснап.

КАЎРЫЖКА, -і, *ж.* Памянш. ад каўрыга. *Я купіла сабе каўрыжку хлеба.* Іванаўка Хоцім.

КАЎЦЮХ, -а, *м.* Кал. *Ны дарозі многа конскіх каўцюхоў.* Турэйск Краснап.

КАФТАН, -а, *м.* Кафтан. *Дзядзька апрануў кафтан.* Рачкавічы Краснап.

КАХЛЯ, -і, *ж.* Кафля. *У Сымона кладуць печку з кахлі.* Канічы Касцюк.

КАХЫЛЬНЫЙ, *прым.* Кафельны. *У нашым вучыліішчы печкі кахыльныя.* Арцёмаўка Міласл.

КАЦЁЛЫШНІК, -а, *м.* Сцябло сланечніка. *Вырві кацелышнік ды складзі ў кучу.* Хвёдараўка Краснап.

КАЦЁЛ, катла́, *м.* Кавалак лёду, на якім з'язджаюць з ледзяной гары. *Мой кацёл разьбіўсь, і я ны баку зьехаў з кыўзялю.* Шарэйкі Касцюк.

КАЦЁЛКА, -і, *ж.* 1. Круг на навоі, які стрымлівае ніткі, каб не рассоўваліся. *Рыскалолысь кацёлка ў навоі — услова будзе зыйджаць.* Хвёдараўка Краснап. 2. Шапка сланечніка. *Ны нашых падсоныхах вялікія кацёлкі, кылі вызрiюць, дык многа семя будзіць.* Арцёмаўка Міласл.

КАЦІЦЦА, *дзеясл.* Каціцца. *Капейка ўпала і коціцца, як каток.* Большая Багацькаўка Мсцісл.

КАЦІЦЬ, *дзеясл.* Каціць. *Кацiў камінь ны мяжу, ды нешта ў сярэдзіне зыкалола.* Глінь Касцюк.

КАЦЦА, *прысл.* Мабыць, здаецца. *Ён, каца, прыдзя сяньні.* Маластоўка Краснап.

КАЦЫЛЫ, -аў, *мн. л.* Вочы. *Вылупіў свае кацылы.* Брылёўка Краснап.

КАЧАРЭЖНІК, -а, *м.* Качарэжнік, куток каля печы, дзе стаяць вілы, качэргі і іншыя кухонныя прылады. *Пастаў вілкі ў качарэжнік.* Паходавічы Чэрык. *Чыпіла стаіць у качарэжніку, а ты шукаіш яе.* Гібалы Касцюк.

КАЧКІ, ка́чак, *мн. л.* Дзіцячыя саначкі. *Сеў ны качкі і каўзаецца.* Хвёдараўка Краснап. *Бацька зьдзелаў мне качкі, цяпер буду кытацца.* Барысавічы Мсцісл.

КАЧУМКА, -і, *ж.* Кучомка, зімовая шапка. *Надзень качумку, ато вушы змарозіш.* Іванаўка Краснап.

КАША, -ы, *ж.* Каша. *Каша была нейкая атруціна, есьць нільзя було.* Арцёмаўка Міласл. *Ныварыла гаршчок кашы, а нам ні дыла.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

КАШАЛЁК, -лька, *м.* Кашалёк. *Падай мне кашалёк з грашамі.* Зоры Чэрык.

КАШАРА, -ы, *ж.* Вялікі кошык, у якім носяць мякіну. *Схадзі ты, Міхась, на гумно і прынясі кашару з мякінай, стаіць ны таку.* Гарадок Расня н.

КАШКА, -і, *ж.* Памянш. ад каша. *Ня плач, маё дзіцятка, я табе дам кашкі з мылачком.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

КАШОЛКА, -і, *ж.* Жарабячы наморднік, мяккі кошык, кашэль. *Узьдзень кашолку жырабёнку.* Горкі Краснап.

КАШУЛЯ, -і, *ж.* Кашуля, сарочка. *Якую ты мне кашулю дыла? Нізылапліную, рукаў пырваны.* Барысавічы Клім. *Надзеў Антось новую кашулю, дык быццам і прыгож стаў.* Малюшын Краснап.

КАШЫЛЬ, -шлю, *м.* Кашаль. *Кветкі брат і сістра памыгаюць ат кашлю.* Барысавічы Клім.

КАШЫЦА, -ы, *м.* Кашыца, негустая каша. *Ныварыла крупніку, ды густа кашыца зьдзелылась.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

КАШЭЛЬ, -а, *м.* Кашэль, кошык з лыка. *Пылажы ў кашэль крыху гуркоў.* Тур'я Чэрык. *Пылажы ў кашэль хлеба і сала сабе ны дарогу.* Слаўнае Мсцісл. *Грыбоў у нас многа. Як відзіш, поўны кашэль ныбярэш.* Белы Мох Мсцісл.

КАЮК, -а, *м.* Каюк, канец, смерць. *Ня лезь так высока — абшатнесься і каюк!* Маластоўка Краснап.

КАЮТКА, -і, *ж.* Невялічкі пакойчык. *Каютка была расчынена, і відаць было пылавіну кырваці.* Хоцімск.

КВАДРА, -ы, *ж.* Квадра, фаза месяца. *Настала ўжо чацьвёртая квадра.* Буда Казельская Краснап. *Месік уступіў ужо ў другую квадру.* Кокатава Мсцісл.

КВАКТУХА, -і, *ж.* Квактуха. *Во сквярэцца, як квактуха на яйцых, калі зачэпіш.* Парадзіна Мсцісл.

КВАКУХА, -і, *ж.* Квактуха. *Квакуха вывіла дзесіць цыплёнкуў.* Арцёмаўка Міласл. *Квакуха тры нядзелі сядзела і вывіла сем цыплёнкуў.* Бяседавічы Хоцім. *Сяньні пысадзілі ны яйцы квакуху.* Касцюковічы.

*Я 'тkладвыю яйцы, хачу квакуху пысадзіць.* Пірагова Мсцісл.

КВАРТА, -ы, *ж.* 1. Кварта, мера вадкасці, 1/20 вядра. *За ета дзела прыдзецца кварту гарелкі пыставіць.* Буда Казельская Краснап. *Паўлітра меньшы зы кварту.* Мсціслаў. 2. Кварта, пасудзіна, што ўжываецца ў хаце для піцця вады. *Дай кварту вады напіцца.* Брылёўка Краснап. *Я сабе купіла новую кварту ды вады.* Клімавічы.

КВАРТОЎКА, -і, *ж.* Мера вадкасці. *Ай дам табе, бабусічка, ‖ А квартоўку мукі, ‖ А рятуй ты маю ды Ганутычку ‖ Ад вялікія мукі.* З нар. песні.

КВАРТЫРА, -ы, *ж.* Кватэра. *У нас на квартыры зы сьцяною жыве сапожнік.* Міцькаўшчына Мсцісл.

КВАС, -у, *м.* Квас. *Квас такі смашны, пакушый тольki, дык сам скажыш.* Старае Сяло Мсцісл.

КВАСЁЛ, -у, *м.* Фасоля. *Дрэнный квасёл урадзіў сёліта; пысадзіла я яго дзьве градкі, а сыбрала нямнога.* Лютня Краснап. *Сёньні мы зварілі суп із квасёлу.* Малюшын Краснап.

КВАСЕЦ, -сца, *м. бат.* Кісліца, заячая капуста. *Які смачны квасец, мо таму і зайцы яго любяць есьці.* Ушакі Чэрык.

КВАСНУВАТЫЙ, *прым.* Квасны, з кіслінай. *Хлеб спікла кваснуватый.* Шумячы.

КВАСОК, -ску, *м.* Памянш. ад квас. *Ета яблыня•ня дужа кіслыя, іна салодкыя з кваском і ні каліва нягорька.* Арцёмаўка Міласл.

КВАСОЛЬ, -і, *ж.* Фасоль. *У нас ны гародзе расьцець многа ўсякіх сартоў квасолі.* Пірагова Мсцісл. *Квасолю абшулупашылі.* Палуж Краснап.

КВАТЭРА, -ы, *ж.* 1. Квадрат, роўная чатырохкутковая плошча. *Луг разьбілі кынавымі ны кватэры.* Гібалы Касцюк. 2. Невялікі кавалак зямлі. *Кватэрка засеіна льном.* Малюшын Краснап.

КВАЦЕРА, -ы, *ж.* Кватэра. *У нас ны квацеры ныстаўніца жывець.* Пірагова Мсцісл.

КВАЧ, -а, *м.* Квач, помаз. *Дзе йта квач закінуўсь — нада печ пыбяліць?* Касцюковічы.

КВАЧЫК, -а, *м.* Памянш. ад квач. *Дзіхцярка ёсьць, а квачыка няма.* Хвёдараўка Краснап.

КВЕТКА, -і, *ж.* Кветка. *Надовечы я рвала кветкі.* Беразяк Краснап. *Вось дзяўчына, так дзяўчына — прыгожая, як кветка!* Хоцімск.

КВЕТЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад кветка. *Мыя ж ты Зосічка, а мыя ж ты кветычка, а як жа я рада, што цябе ўбачыла!* Мсціслаў.

КВІТ, -а, *м.* Квіт, канец. *Мыла іна бяльлё ны рацэ ды ўваліліся ў паныўку, тут ёй і квіт!* Пірагова Мсцісл. *Няхай будзе на етым квіт!* Хоцімск. *З крышы зваліўся — і квіт.* Куркаўшчына Мсцісл.

КВІТОК, -тка, *м.* Квіток, квітанцыя. *Дзяніс дыстаў квіток на дровы.* Гібалы Касцюк.

КВОКУШ-КВОКУШ, *выкл.* Падзыўныя для закліку кваткухі з пісклятамі [куранятамі]. *Квокуш-квокуш-квокуш! Ідзіце трохі крупкыў пыдзяўбіця.* Хвёдараўка Краснап.

КВОЛЫЙ, *прым.* Кволы, слабы, далікатны. *Яны, ці гусіняты, ці індыкі мыладыя, усі кволы: усё хварэюць ды здыхаюць.* Арцёмаўка Міласл. *Мой хлопчык вельмі нейкі кволы.* Пацкава Мсцісл.

КВОТЫ, -аў, *мн. л.* Працэнты. *Банк плаціць па пяць квотаў.* Тур'я Чэрык. *Ён жа, ірыд, так ні дасьць, ён аддае грошы з квотымі.* Цівецкая Краснап.

КВОХЫЦЬ, *дзеясл.* Стагнаць. *Дзед нешта зыбалеў — ляжыць ны пячы і квохыя.* Карма-Пайкі Краснап.

КВОШКА, -і, *ж.* Квактуха. *Наша квошка кінула сваіх дзяцей.* Бабынічы Калінінщчына.

КВУХА, -і, *ж.* Вялікая бочка. *Налі ў квуху вады.* Тур'я Чэрык.

КВЫКАВІНЬНЯ, -я, *н.* Жабіна ікра, жабурынне. *У лузі выда пыганыя: там квыкавіньня дужа быгата, і коній там ні напоіш.* Рослаў.

КВЫХТАНЬНЯ, -я, *н.* Жабіна ікра. *Вясною лягушкі дзелыюць пу балотых квыхтаньня, з якога выводзюцца малыя лігушыняты.* Слаўнае Мсцісл.

КВЫХТАЦЬ, *дзеясл.* Квактаць. *Куріца пычыла квыхтаць, нада пысадзіць ны яйцы.* Арцёмаўка Міласл. *Ета ж ваша курыца квыхтаць пычынае — прыдайце вы яе, калі садзіць ня будзеце.* Рэкта Калінінщчына.

КВЯСЁЛ, -у, *м.* Фасоль. *У нас сёліта шмат засеіна квясёлу.* Чэрыкаў.

КГУЗ, -а, *м.* Гуз, шышка на лбе. *Як ударыўся лысінаю аб прытылыку, дык аж кгуз ускачыў на лысіні.* Арцёмаўка Міласл.

КЁЛЗЫЦЬ, *дзеясл.* Кілзаць, вуздаць. *Ехыўшы у горыд, нада келзыць коні, ато тынабіля можыць спужацца.* Добрае Мсцісл.

КЕЛЬНЯ, -і, *ж.* 1. Кельма, лапатачка муляра, якою ён бярэ гліну. *У муліра і прылады ўсяго, што кельня ды мылаток, ды яшчэ вінкель з шнурам.* Паходавічы Чэрык. 2. Келля, невялікі, вузенькі пакойчык. *Наша хата маленькыя, усё роўна, як кельня.* Канічы Касцюк.

КЕПСКА, *прысл.* Кепска, нядобра. *Кепска ты, браце, робіш: бацькі свайго ні слухаіш, ні шануіш яго.* Зарэчча Мсцісл.

КЕПСКІЙ, *прым.* Кепскі, нядобры. *Ны дваре стаіць кепскыя пагода.* Кажамякіна Краснап. *Кепскыя работа — кепскія й зыплата.* Канічы Касцюк. *Аглыбля сасновыя кепскыя, някрэпкыя, бярозувыя луччы.* Пухнава Раснян.

КЕРАСІНІЦА, -ы, *ж.* Газніца, частка лямпы, у якую наліваецца газа. *Пылядзі, ці ёсць у керасініцы красір, нешта лямпа гарыць цьмяна.* Вярбоўка Раснян.

КЕСКА, кецка, -і, *ж.* Машна на грошы. *У мяне поўна кецка грошы.* Слаўнае Мсцісл.

КЕШКАЦЦА, *дзеясл.* Варушыцца, *Кешкайсь ты там, ато работы ня відна.* Хвёдараўка Краснап.

КІБІС, -а, *м. заал.* Балотная птушка, кнігаўка. *Кібіс пыляцеў ныд балотым, гняздо нейдзе яго тут.* Віхраны Мсцісл.

КІВАЛЬНІК, -а, *м.* Маятнік у гадзіннiку. *Ківальнік у гадзіньніку ня йдзе.* Хвёдараўка Краснап.

КІВА́ЦЦА, *дзеясл.* Ківацца. *Што й ты нешта йдзеш і ківаісься, ік пьяный?* Арцёмаўка Міласл.

КІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Ківаць. *Што ты ківаіш гылавой, ні ныравіцца?* Робцы Раснян. *Нешта Ігнат табе ківаець, пыдайдзі паслухай, што ён табе скажыць.* Бабынічы Мсцісл.

КІДА́ЛЬНІЦА, -ы, *ж.* Лапата, якой саджаюць у печ хлеб. *Прінясі з сяней кідальніцу, будзім хлеб саджаць.* Барысавічы Клім.

КІДА́ЦЬ, *дзеясл.* Кідаць. *Рві, дзеткі, зельлійка ды кідай ны мяжу.* Горня Хоцім. *Касу чысала ды ачоскі ў агонь кідала.* Бардзіч Краснап. *Ня кідай вярёўку абы-йдзе, іна знадыба будзе.* Палуж Краснап.

КІ́ДЫЦЦА, *дзеясл.* 1. Кідацца. *Нечыга табе кідыцца грышамі, ты ні бычаг якей.* Арцёмаўка Міласл. *Ноччу сыбакі некыга, знаць, пачулі і сталі кідыцца і бріхаць дужа.* Арцёмаўка Міласл. 2. Спяшацца. *Впярёд бацькі на шыбініцу ня кідыйсь.* Бяседавічы Хоцім.

КІЁ́К, кійка, *м.* Кіёк. *Быў сяньні ў лесі і вырызыў ладны арехувый кіёк.* Людагошч Мсцісл. *Узяў кіёк і пашоў нейдзе.* Зоры Чэрык.

КІЁ́ЎКІ, -вак, *мн. л.* Кукуруза. *Пысаджу кіёўкі, дужа люблю кіюшкі парыныя.* Хвёдараўка Краснап. *Кіёўкі растуць ны гародзе.* Кажамякіна Калініншчына.

КІЁ́ЎНІК, -а, *м.* Сцябло кукурузы. *Кіёўнік вырыс вялікі, а кіюшык мала на ём.* Бяседавічы Хоцім.

КІЁ́ЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад кіёк. *Вылымый сабе тоніянькій арехывый кіёчык аппіраццa.* Слаўнае Мсцісл. *А ну, унучка, пыдай мой кіёчык, пайду ў пасіку схаджу і мёду табе прінясу.* Бяседавічы Хоцім.

КІ́Й, -я, *м.* Кій, палка. *Ета дзедыў кій, ні чыпай.* Касперка Міласл. *Хлопчык хацеў кіем ударыць сыбаку.* Пацкава Мсцісл.

КІКІМО́РА, -ы, *ж.* Малпа. *Ты ўсё пірінімаіш, як тая заморская кікімора, штоб я ні зьдзелыў, плахоя ці харошыя.* Слаўнае Мсцісл.

КІ́КС, -а, *м.* Нішто, пройгрыш. *З бальшога абраньня ды выйшаў кікс. Гулялі мы ў карты, дык я выіграў, а ўсі асталісь з кіксым.* Сохана Мсцісл.

КІЛА́, -ы, *ж.* Кіла, грыжа. *Ні ўзялі Пынаса ў сылдаты таму, што ў яго кіла, якую набыў летысь, пыдняўшы бряўно ніпадсілу.* Лешчынка Мсцісл.

КІЛБЫСА́, -ы, *ж.* Каўбаса. *Дзе гэста пыдзелась наша кілбыса, я есьць хачу?* Ушакі Чэрык.

КІЛЯШО́К, -шка, *м.* Кілішак, невялікая чарка. *Выпій кіляшок гарелкі.* Хвёдараўка Краснап. *Ны свадзьбі я выпіла пяць кіляшкоў гарелкі.* Слаўнае Мсцісл.

КІНДЗЮ́Х, -а, *м.* Кіндзюк, страўнік. *Ты ўжо набіў свой кіндзюх, што ні сагнеська, пыбяжы праветрісь.* Шумячы.

КІ́НУТЫЙ, *прым.* Пакінуты. *Адзін, кінутый усімі, ён жыў, як сірыта.* Арцёмаўка Міласл.

КІ́НУЦЦА, *дзеясл.* Кінуцца, пусціцца. *Кінуўся ў дагон за ім і пыймаў-такі.* Арцёмаўка Міласл. *Кучый кінулісь за ім, але ні дыгналі.* Старае Сяло Мсцісл.

КІ́НУЦЬ, *дзеясл.* 1. Кінуць. *Кінуў вілымі ў пырасёнка і праткнуў яго наскрозь.* Арцёмаўка Міласл. *Ён кінуў палкай у сыбаку.* Хоцімск. 2. Пакінуць. *Сама зьела зьверху сьмітанку, а мне адны падонкі кінула.* Слаўнае Мсцісл. *Трэба ж і яму кінуць есьці, ня ежце ўсяго.* Добрае Мсцісл. 3. Спыніцца, перастаць. *Кінь ты яе груніць.* Шамава Мсцісл.

КІ́ПЕНЬ, -я, *м.* Кіпень, вар. *Кіпнем абварыла руку.* Журбін Бялынкав.

КІПІРА́ЦІЎ, -ву, *м.* Кааператыў. *Ты йдзі ў кіпіраціў, а я пынясу пісьмо на пошту.* Мсціслаў.

КІПІРА́ЦЫЯ, -і, *ж.* Кааперацыя. *Купіў татка рысу ў кіпірацыі.* Пірагова Мсцісл.

КІРКА́, -і, *ж.* 1. Кірка, матыка. *Зямля ўсохла, хоць ты яе кіркаю капай.* Шумячы. 2. Прылада, якою выдзяўбаюць карыта. *Етый кіркый дрэнна дзелыць карыта.* Хвёдараўка Краснап.

КІРМА́Ш, -у, *м.* Кірмаш. *На ўшэсьця ны кірмаш і матка паедзіць з бацькую, пытаму што карову будуць купляць.* Арцёмаўка Міласл. *Вярнуўся Піліп з кірмашу невясёлый: спыдмануў яго цыган, прыдаў кыня хворыга замест добрыга.* Дзіснакіта Мсцісл.

КІРПІ́Ч, -у, *м.* Цэгла. *Наша вучылішча харошыя, відзіш, і падмурык з кірпічу складзін, а печкі кахыльныя.* Арцёмаўка Міласл.

КІРУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Кіраваць. *Нехта вожкі ўкраў з воза, цяперь і кыня кіруваць нечым.* Лешчынка Мсцісл. *Табе і вожкі ў рукі, табе і кіруваць.* Пірагова Мсцісл.

КІРШЭ́НЬ, -я, *м.* Карак. *Як дам у кіршэнь, дык і дзюбнеш носым.* Азерцы Клім.

КІРЮ́ХА, -і, *м.* Уласнае імя Кірыла. *Або ж ты ня ведыіш, што Кірюха з Масквы пріехыў?* Куравічы Мсцісл.

КІСЕ́ЙКА, -і, *ж.* Паркаль. *Набраў татка мне кісейкі ны плацьця.* Пірагова Мсцісл.

КІСЕ́Т, -а, *м.* Кісет. *Высып тыбаку ў кісет.* Сідараўка Хоцім. *Поўны кісет махры насыпаў, а на́ дзінь ні хапіла.* Палуж Краснап. *У майго дзеда за поісым усягды тырчыць піпка, кісет с тыбакую і вогніва.* Слаўнае Мсцісл.

КІСІ́Я, -і, *ж.* Паркаль. *Ета ладныя кісія ны плацьця.* Галаўчыцы Калініншчына.

КІСЛІ́ЦА, -ы, *ж.* Шчавель лугавы. *Дзяўчаты, пайдзіце на луг ды нарвіце кісліцы на борич.* Дзяніскавічы Навазыбк.

КІ́СТКА, -і, *ж.* 1. Пэндзаль. *У мяне ёсьць харошыя кістка для рісуваньня краскымі.* Бяседавічы Хоцім. 2. Кутас. *Ны знаміні зылатыя кісткі, а на тым сірібряныі.* Горкі Краснап.

КІТА́ЙКА, -і, *ж.* Кітайка, лёгкая баваўняная тканіна. *Кітайкі ны плацьця ныбрала.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

КІ́Ў, ківу, *м.* Кіў, рух рукі ці воч. *Ты яму пыгразі, дык ён улашчыцца, ато ён дужа любіць страху ныпусьціць, хуць і сам пужаецца ківу.* Арцёмаўка Міласл.

КІШКА́, -і, *ж.* Кішка. *Карова карові кішкі выпусьціла.* Галоўчыцы Калініншчына.

КІШЭ́НЬ, -і, *ж.* Кішэнь. *Ня лезь у кішэнь, бо заробіш пы руках.* Іванаўка Хоцім. *Пылажы ета ў кішэнь, а ета вазьмі ў руку.* Баброва Раснян. *Насыпый поўну кішэнь арэхаў.* Юркаўка Крыч.

КІШЭ́НЬКА, -і, *ж.* Памянш. ад кішэнь. *Сынок, схувай руку ў кішэньку і шыбчэй, ато холыдна.* Бяседавічы Хоцім. *У цябе прішыта дужа маліўкыя кішэнька, нічога ў яе ні палож-ыш.* Слаўнае Мсцісл.

КІШЭ́НЯ, -і, *ж.* Кішэнь. *Іна такая, што за словам у кішэню ні палезе.* Бабынічы Мсцісл. *Сам абгледзься, можа йшчэ і ў кішэні грошы!* Пірагова Мсцісл. *Пыдралысь мыя кішэня і пылажыць нічога ні магу.* Ушакі Чэрык.

КІЮ́ШКА, -і, *ж.* 1. Качан кукурузы. *Кіёўнік вырыс вялікій, а кіюшкі саўсім малыя на ём.* Бяседавічы Хоцім. *Дужа я люблю кіюшкі парыныя.* Хвёдараўка Краснап. 2. Кукуруза наогул. *Мы сёліта пысадзілі сабе кіюшкі.* Бяседавічы Хоцім.

КЛАДАЎЁ, -я, *н.* Могілкі. *Кылі ты такі сьмелы, дык пайдзі ўночы на кладаўё і абыйдзі яго тры разы.* Шэпілава Жлобін.

КЛАДБІ́ШЧА, -а, *н.* Могілкі. *Як пычаў пыдхадзіць к кладбішчу, дык як ныпаў ны мяне страх, проста дзецца німа дзе.* Слаўнае Мсцісл.

КЛАДЗІ́ШЧА, -а, *н.* Могілкі. *Нейкыга мірьцьвіца вязуць ны кладзішча, я відзіў, яму ўжу яму там выкыпалі.* Арцёмаўка Міласл. *Нада сходзіць сёньня ны кладзішча магілку пыправіць.* Ушакі Чэрык. *Ны кладзішчы схывалі пакойніка.* Вярбоўка Раснян.

КЛА́ДКА, -і, *ж.* 1. Кладзь, верхняе бервяно на козлах у будоўлі, на якое кладуць жэрдкі пад стрэху. *Гумно ўжу збудувалі, сяньні палож-уць кладку і пачэпяць кручча, а там і крыць можна будзіць. Кладка ляжыць ны хрясту.* Пухнава Раснян. 2. Кладка, пакладзенае бервяно або дошка для пераходу рэчкі. *Ні нада рыздзівацца, тут ёсьць кладка, па ёй можна пірайіць.* Бяседавічы Хоцім. *Цірaз рэчку пыклалі кладку, січас ужу ні нада будзіць абхадзіць.* Палуж Краснап.

КЛАДО́ЎКА, -і, *ж.* Кладоўка [каморка], схова для розных прадуктаў. *У іх у сенцах адгарожына кладоўка, дык дужа харошый пріют, вынісьць ці пыстыялкі, ці сала кусок, ці што лішнія ў хаці.* Арцёмаўка Міласл. *Вынісі пыстыялку ў кладоўку.* Дзягавічы Калінінішчына.

КЛАДЫЎЯ́, -я, *н.* Могілкі. *Кожны дзень ны кладыўя пакойніка нісуць.* Рослаўль. *Пынялі хывaць ны кладыўя.* Палуж Краснап.

КЛА́ДЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад кладка. *Кладычка тонкыя, дык таго й глядзі, што абшатнесься ў воду.* Зоры Чэрык.

КЛАНІ́ЦЦА, *дзеясл.* Кланяцца. *Кланійся, Марычка, бацьку нізка.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

КЛА́ПАН, -а, *м.* Клавіш у гармоні. *У маёй гармоні адзін клапан сапсуваўсь.* Азерцы Клім.

КЛАПАЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Клапаціцца. *Ахвота мне клапаціцца пы цябе.* Прыпечына Калінінішчына. *Матка клапаціцца, што сына з дарогі німа доўга.* Сохана Мсцісл.

КЛАПАЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Клапаціцца. *Мая матка дужа клапаціць па мне.* Галоўчыцы Калінінішчына. *Іна клапоціць аб дзецях.* Бель Мсцісл.

КЛА́СЦА, *дзеясл.* Класціся. *Будзім класца спаць, позна ўжо.* Бяседавічы Хоцім.

КЛА́СЫ, -аў, *мн. л.* Дзіцячая гульня. *Пойдзім на вуліцу, будзім гуляць у класы.* Шарэйкі Касцюк.

КЛА́СЬЦЬ, *дзеясл.* Класці. *Пыд стог ны аддонішча трэба класьць хвырасту.* Тур'я Краснап. *Дровы нехта абурый, нада ўноў класьць.* Мсціслаў.

КЛАЧО́К, -чка, *м.* Шматок. *Саломы жменька — капейка, а сена клачок — пітачок.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

КЛЕ́ВІР, -у, *м.* Канюшына. *Нада клевіру купіць ды вясною пасеіць, ато тэй клевір, што пасеілі па жыту, прыпаў.* Арцёмаўка Міласл.

КЛЕ́НЬЧЫНЬНЯ, -я, *н.* Кленчанне, павага. *Ні варт ён, дзяўчына, твайго кленьчыньня — гэта ж ні чылавек, а гад нейкі.* Ушакі Чэрык.

КЛЕ́ТКА, -і, *ж.* Клетка. *Пыпалысь птушка ў клетку.* Азерцы Клім. *Мы палезьлі ў шчыт атчэпліваць клетку.* Ушакі Чэрык.

КЛЕЦ, -а, *м.* Зуб у баране ці граблях. *Янка, айдзе ты паціраў клец з быраны?* Башары Расняи. *Надзелый ты кляцоў у быrану, ато некылькі вывылілысь, і дренна скырадзіць.* Слаўнае Мсцісл. *З грабель выаліўся клец.* Бязводзічы Мсцісл.

КЛЕЦЬ, -і, *ж.* Клець, кладоўка. *Марылька, прінясі з клеці хлеба.* Стары Дзедзін Міласл. *Жыта ссыпалі ў клець.* Крычаў. *Улетку добра ў клеці: нядушна і мух німа.* Смолькаўская Буда Бялынкав.

КЛЕШЧ, -а, *м.* Клешч. *Мне сяньні ўпіўсь клешч пряма пыд паху.* Горня Хоцім.

КЛЕ́ШЧЫ, -аў, эй, *мн. л.* 1. Клешчы, драўляная аснова хамута. *Купіў клешчы і кожы: хамут нада дзелыць.* Пухнава Раснян. *З кляновыга пня выйшлі добрыя клешчы.* Ташна Клім. *Кряпчэй сцісьні клешчы, ато парвецца хамут.* Бяседавічы Хоцім. 2. Клешчы, кавальскія абцугі. *Вазьмі даўжэйшыя клешчы, ато тымі горіча дзіржаць.* Бяседавічы Хоцім.

КЛЕ́ВЫЦЬ, *дзеясл.* Біцца, тоўкаць, пульсіраваць. *Піскленык клёвыя ў яйцы. Кроў клёвыя ў жылых.* Хвёдараўка Краснап.

КЛЁК, -у, *м.* 1. Клёк, костны мозг. *Увесь клёк с касьцей высcыў.* Хвёдараўка Краснап. 2. Сіла. *Ты зь мяне ўвесь клёк выцісную.* Там жа.

КЛЁКАТ, -у, *м.* Шыя. *Родненькая, як у цябе запекся клёкат, ажно чоран!* Белы Камень Бялынкав.

КЛЁН, -у, *м. бат.* Клён. *Лі нашый хаты расьцець клён, дык ты знойдзіш.* Ушакі Чэрык.

КЛЁП, -у, *м.* Клёп, кляпанне (касы). *Ета кыса на клёп дужа добра.* Хвёдараўка Краснап.

КЛЁСТ, -а, *м.* Дзіцячая гульня. *Пойдзім гуляць у клёст, я палычку ўжу зьдзелый.* Хвёдараўка Краснап.

КЛЁЦКА, -і, *ж.* Клёцка. *Сяньні мы варылі клёцкі.* Слаўнае Мсцісл. *Наеўсь клёцык, аж жывот тряшчыць.* Парфенава Калінінішчына. *Нывары, мама, сяньні клёцык ны вячэру.* Барысавічы Клім.

КЛІЙМО́, -а, *н.* Кляймо. *На етый дзірьвіні клійно ні атбіта, скажы лісьніку, штоб зыкляймій.* Высокі Бор Краснап.

КЛІКАЦЬ, *дзеясл.* Клікаць. *Я ні чуў, ці ты мяне клікаў, ці не.* Лешчынка Мсцісл. *Ён ня хочыць адзывацца, хуць яго і клічуць.* Лешчынка Мсцісл.

КЛІКНУЦЬ, *дзеясл.* Клікнуць. *Пыбяжы, сынок, клікні бацьку з гароду, ніхай ідзе сьнедаць.* Азерцы Клім. *Клікні яго мне.* Хоцімск.

КЛІКУ́Н, -а, *м.* Заганяты [загоншчык] на аблаве. *Пайдзём ны аблаву, нас прімуць клікунамі — нам іці пы лясу ды стукыць, крічаць нада, штоб вайкоў выпудзіць.* Бяседавічы Хоцім. *Клікуноў быгата було ны аблаві.* Хвёдараўка Краснап.

КЛІМА́Т, -у, *м.* Клімат. *Клімат у нас дрэнный, сырэй.* Радзілёў Краснап.

КЛІ́МУВІЧЫ, -іч, *м.* Клімавічы, горад. *Було ўжы прыпызна, хуць сонца йшчэ ні зайшло, як прыехылі ў Клімувічы.* Турэйск Краснап.

КЛІН, -а, *м.* Клін. *Не забівай туга клін — лісіца расколіцца.* Ташна Клім. *Пыдай тапор, нада клін зьдзелыць, ато біз кліна ні расколеш етыя калоды.* Дзягавічы Калінінішчына.

КЛІ́НДУХ, -а, *м. заал.* Дзікі голуб. *Я сяньні найшоў гнязда кліндуха.* Хвёдараўка Краснап.

КЛІНЦЫ́, -оў, *мн. л.* Макуха, выціскі з льнянога семя пасля выганкі алею. *Прынясі дзеля каровы клінцоў з алейні.* Тур'я Чэрык.

КЛІПАЦЬ, *дзеясл.* Кляпаць. *Нада касу кліпаць, заўтра касіць пайдзем.* Новае Сяло Мсцісл.

КЛІТБА́, -ы, *ж.* 1. Праклёны. *Як узьняў лаянку, клітбу — хуць ты вушы заткай!* Пірагова Мсцісл. 2. Клятва. *Я табе даю клятбу, што ні разу я нікога так ні любіў, як цябе.* Слаўнае Мсцісл. 3. Закліnаньне, прымха. *Ён мяне думуў вылічыць усякімі зыгаворымі, а я, брат, ні ў якую клятбу ня веру.* Слаўнае Мсцісл.

КЛІШЧА́, -ы, *ж.* Адна палова драўнянай асновы кляшчэй хамута. *Клішча крапчэй коньскыга пліча.* Бязводзічы Мсцісл.

КЛОП, -а, *м.* Клоп. *Ны тваёй хусткі сядзіць клоп, ськінь яго ды рыздаві.* Баеўка Крыч. *Пахніць клыпамі.* Слаўнае Мсцісл.

КЛО́ПАТ, -у, *м.* Клопат, турботы. *Клопат мне вялікі, калі ён ня прыдзе: ніхай ня йдзе.* Бель Мсцісл. *Клопыт мне вялікі, што ў цябе баліць гылыва, я етыга ня чуствыю.* Слаўнае Мсцісл. *Хлапец зыстаўся сіратою; каму што, а мне — клопыт.* Добрае Мсцісл.

КЛУБНІ́ЦА, -ы, *ж.* Трускаўка, ягада садовая. *Я купіла клубніц.* Маластоўка Краснап.

КЛУБНЯ́К, -а, *м.* Скрутак лык. *Змытай на клубняк лыкі.* Баеўка Крыч.

КЛУБО́К, -бка, *м.* Клубок. *Клубок нітык размытала ны маткі, бяліць буду.* Вербеж Міласл.

КЛУМ, -у, *м.* Тлум, гоман. *Ны вічарінкі такей клум быў, што ў мяне і цяперь у вушах гудзіць.* Арцёмаўка Міласл. *Ой, колькі клуму тут, аж гылыва кругом ідзе!* Хвёдараўка Краснап.

КЛУМАЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Без справы хадзіць, прападаць. *Дзе ты клумаціўся ўсю ноч?* Хвёдараўка Краснап.

КЛУ́МБЫ, -аў, *мн. л.* Драўляныя пантофлі. *Уздзень клумбы, пы гразі луччы, чым босый, будзе.* Горка Краснап.

КЛУМІ́ЦЬ, *дзеясл.* Тлуміць, адурваць. *Ні клумі ты мне гылыву.* Кокатава Мсцісл. *Сьціхніця вы, ні клуміця мае гылавы!* Хвёдараўка Краснап.

КЛУ́МКА, -і, *ж.* Клумка. *Клумку хлеба ныбраў, усё роўна як на месіц едзіць з дому.* Камароўка Крыч. *Пыдвязі ты мне клумку на пруд.* Кокатава Мсцісл. *Як ты гэту клумку занёс.* Баеўка Крыч.

КЛУ́СНЫЙ, *прым.* Тлусты. *Ён клусный, як кыбан, хуць ты ны сала яго тапі. Кыбан быў клусный.* Хвёдараўка Краснап.

КЛЫПАТО́СЬЦЬ, -і, *ж.* Клопат. *Госьці зыдалі нам клыпатосьці.* Маластоўка Краснап.

КЛЫПАЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Заклапочваць, турбаваць. *Ні клыпаці ты сваё гылавы ўсякімі думкамі.* Паўлавічы Клім.

КЛЫ́ЧЫНЬНЯ, -я, *н.* 1. Узлахмачванне [склычванне]. *Січас у горідзі дзеўкі выласоў ні прічэсваюць: клычыньня ў модзі, гылыва ік куст якей.* Цівецкая Краснап. 2. Калатня. *У Касцюка ў хаці пыстыянныя клычыньня, чуць за чубы ні бяруцца.* Мануйлы Краснап.

КЛЫ́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Клычыць, блытаць. *Ні клыч мне выласоў — іх жа тады ні рашчэшыш.* Ушакі Чэрык.

КЛЮЧ, -а, *м.* Ключ. *Ключ ні 'тмыкая зымка. Нехта ключамі кыла клеці зыбряжджэў.* Палуж Краснап. *Пылажы ключ наўвеце, а тады будзіш шукаць.* Куркаўшчына Мсцісл.

КЛЯВЕ́Ц, -ўца, *м.* Малаток. *Пыдай мне клявец, ныкліпаць касу нада.* Слаўнае Мсцісл. *Я кляўцом разьбіў паліц.* Кокатава Мсцісл. *Кліўца німа пад рукою, і кыса затупілысь, ныкліпаць нечым.* Сідараўка Калінінішчына.

КЛЯВЫ́Р, -у, *м.* Канюшына. *Клявыр пасеіў па жыту, дык увесь прыпаў — ці то семя нядобрыя було, ці што?* Арцёмаўка Міласл.

КЛЯ́МКА, -і, *ж.* 1. Клямка. *Прычыні дзьверы ны клямку.* Сохана Мсцісл. *Ляпнуў клямкый — ніхто ні адчыняя.* Хвёдараўка Краснап. *Хлопіц узяўся зы клямку і хацеў адчыніць дзьверы, ды неяк клямка адырвалысь.* Шумячы. 2. Безнадзейная справа, гібель, канец, крышка. *Я яму пазычыў грошы, там ім і клямка.* Аршаншчына.

КЛЯПАНО́СЫЙ, *прым.* Гарбаносы. *Дужа ён кляпаносы: нос як у турка.* Хвёдараўка Краснап.

КЛЯПЕ́НЬ, -я, *м.* Кляпень, калочак. *Сяньні нашлежнікі забілі майму хлыпцы кляпень, зьвізаўшы ногі, дык ён і ліжаў, пакуль людзі пріехылі ды рызьвізалі.* Бяседавічы Хоцім. *Закруці полыз кліпянём.* Ташна Клім. *Зрабі кляпень і прывяжы жа-*

*робку ны ўсяніщы, там травы многа.* Баеўка Крыч.

КЛЯПЧЫ́НА, -ы, *ж.* След ад малатка пры кляпанні касы. *Клiпаў касу, а кляпчыны й ні відаць.* Хвёдараўка Краснап.

КЛЯ́СЬЦІ, *дзеясл.* Клясці, праклінаць. *Як пачыла іна мяне клясьці, дык я ўжо ні рада была, што зычапіла.* Пірагова Мсцісл. *Зачым мне клясьць тывырыша, калі ён ні віныват.* Слаўнае Мсцісл.

КЛЯШЧО́ТКА, -і, *ж.* Кляшчотка. *Нада кляшчоткі прыдзелыць у мяльніцы.* Хвёдараўка Краснап.

КЛЯШЧО́ТКІ, -так, *мн. л.* Клешчы. *Бяры кляшчоткымі гырачыя камні і кідай у бочку.* Хвёдараўка Краснап.

КЛЯШЧЫ́, -оў, *мн. л.* Клешчы. *Сьцісьні кляшчы йшчэ раз, ты дрэнна сьцісnуў, хамут так можна разырваць.* Хвёдараўка Краснап.

КМІН, -у, *м.* 1. *бат.* Тмен. *Кмін зьбіраюць на лугах, сушаць і потым кладуць у хлеб, каб ён меў добрый пах.* Пірагова Мсцісл. *Хлеб с кміным смашный.* Хвёдараўка Краснап. 2. *бат.* Грымотнік. *Ны мяжы кміну быгата, толькі ён ні пахніць, як лугавэй.* Карма-Пайкі Краснап.

КНІГА, -і, *ж.* Кніга. *Ён, як зачытаіцца, дык нічога ні чуіць і ні відзіць, апріч свае кнігі.* Стары Дзедзін Міласл. *Я пылажыла сваё кнігі ў шаньку.* Конава Касцюк.

КНІГАЛЮ́Б, -а, *м.* Кнігалюб. *Мяхводыў Мітрухван бальшэй кнігалюб, сколькі ён кніг пірічытаў, скызаць нільзя.* Цівецкая Краснап.

КНІГА́РНЯ, -і, *ж.* Кнігарня. *Хадзілі мы сёньні ў кнігарню, каб купіць кніг, ды ні знайшлі нічога цікавыга.* Ушакі Чэрык.

КНІ́ЖКА, -і, *ж.* Кніжка. *Ны лаві ляжыць кніжка, вазьмі ды чытай, калі німа чаго рабіць.* Шарэйкі Касцюк. *Абмяніця мне ету кніжку.* Сохана Мсцісл.

КНІ́ЖЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад кніга. *Самыя табе кніжычка для чытаньня.* Шарэйкі Касцюк.

КНО́РУЗ, -а, *м.* 1. Кнур. *Сьвіньня да кноруза хочыць, нада гнаць у сыўгас.* Бель Мсцісл. 2. Баран ці казёл нявылегчаны. *Наш быран — кно́руз, дык ён ніколі ў дваре ні начуіць.* Гібалы Касцюк.

КНО́РЫЗ, -а, *м.* Кнур. *Мы к сваім авечкам пусьцілі добрыга кнорыза.* Кокатава Мсцісл.

КНОТ, -у, *м.* Кнот. *Кнот пычаў гарець, таму што ні дыстаець красір.* Лешчынка Мсцісл. *Пятрусь укруціў у лямпу кнот.* Гібалы Касцюк. *Газы німа, і кнот гарыць.* Баеўка Крыч.

КНУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Ныць, плакаць. *Ня кнуй, абы ні маліанькій.* Кокатава Мсцісл.

КНУР, -а, *м.* Кнур, нявылегчаны кабан. *У мяне пародзістый кнур.* Кокатава Мсцісл. *Аксіньня, ідзі пашукай нашыга кнура, недзе за сьвіннямі пабег.* Тур'я Чэрык. *Якей бальшэй кнур ходзя пы двару!* Хвёдараўка Краснап.

КНУТ, -а, *м.* Пуга, бізун. *Узяў кнут ды пы кані, а той як скоча на калёсы, і нагу злымаў.* Халдзееўка Хоцім.

КОВЫРЫТЫ, -аў, *мн. л.* Вароты ў канцы вёскі. *Пазычыняць ковырыты, каб сьвіньні ні ўвырваліся ў шкоду.* Палуж Краснап.

КО́ДЛА, -а, *н.* Род. *Усё кодла іх вымерла, нікога німа.* Гібалы Касцюк.

КО́ЖА, -ы, *ж.* Скура. *З кожы вырызалі добрыя гужы.* Ташна Клім. *Кожа на руках, як плівусьцінычка.* Хвёдараўка Краснап.

КО́ЖНЫЙ, *займ.* Кожны. *Еш болі, ато ндужы будзіш, і цябе кожны здоліць.* Старае Сяло Мсцісл. *За кожным разам ён мяне абакуліваець.* Сапрынавічы Мсцісл. *Для бедняка кожныя капейка маіць сваё значэньне.* Сохана Мсцісл.

КО́ЗЛЫ, -оў, *мн. л.* Козлы, прыстасаванне пілаваць дровы. *Стаў козлы сюды, будзім дровы пілiць.* Хвёдараўка Краснап.

КО́ЙКА, -і, *ж.* Ложак. *На койкі ляжыць умірушчый.* Шумячы.

КО́КА, -а, *н.* Яечка (дзіцячае). *Цыц, дзетка, ні плач; січас курычка кока зьнясець, дык я табе дам.* Арцёмаўка Міласл.

КО́КЫВІНЬ, -ыўня, *м.* Певень. *Ходзіць, як кокывынь сярод курей.* Хвёдараўка Краснап.

КО́КЫТ, -а, *м.* Кіпцюр. *Стаіць дуб ны дзьвінаццыцъ кокытаў.* Загадка. Б. Хутары Краснап.

КО́КЫЦЬ, ко́кця, *м.* Кіпцюр, пазногаць. *У савы дужа вялікія кокці.* Слаўнае Мсцісл.

КОЛ, -а, *м.* Кол. *Гультай такей, што хоць ты кол ны гылаве чашы, дык нічога ня зьдзелыць.* Пірагова Мсцісл.

КО́ЛА, -а, *н.* Калясо, кола. *З калёс нехта кола ўкраў, і зысталісь калёсы на трох колах.* Ушакі Чэрык.

КО́ЛАВАРАТЫ, -аў, *мн. л.* Вароты ў канцы вёскі. *Адчыні, хлопча, колаварыты, ато мне ня хочыцца з калёс злазіць.* Сапрынавічы Мсцісл.

КО́ЛАС, -а, *м.* Колас. *Жыта сёліта зырадзіла: колас вялікій, зірняты буйныя.* Маляцічы Крыч.

КО́ЛАТ, -а, *м.* Колат, доўгі кій з насаджанай на канец булдавешкай, служыць для пужання рыбы. *Не забудзь, Янка, узяць колат у лодку, ато нечым будзіць рыбу загыняць у нерат.* Новыя Капачы Мсцісл.

КО́ЛІК, -а, *м.* Памянш. ад кол. *Зыкладзі там чэп і засунь колік, ато яшчэ веціp атчыніць вароты.* Бяседавічы Хоцім.

КО́ЛІР, -а, *м.* 1. Колер. *Тваё плацьця другога коліру, хуць цьвяткі такія, як і ны маім, але колір другей, цімнуватый.* Шумячы. 2. Гатунак, смак. *Яблыка ўкусныя, с кваском — харошый ко́лір, ні то, што ў тваім садзе.* Цівецкая Краснап.

КО́ЛІЦА, -ы, *ж.* Аколіца, вуліца. *Пятрусь пашоў на коліцу да дзяўчат.* Іванаўка Краснап.

КО́ЛЬКІ, *прысл.* Колькі. *Колькі табе гадоў?* Гарбавічы Касцюк. *Гарэлкі было ны свадзьбі, колькі заўгодна.* Камароўка Крыч.

КО́ЛЬКІ, -аў, *мн. л.* Калацце [колікі]. *Я, знаць, прыстудзілась, што ў мяне пашлі колькі па ўсім целі.* Бяседавічы Хоцім. *У яе колькі ў баку, аж дыханьня зыхватывыіць.* Арцёмаўка Міласл.

КО́МБІЦА, -ы, *ж.* Вяровачка, на якой трымаецца ў роўнавазе бязмен. *Пасунь-ка*

*большы комбіцу, ні цягнець троху.* Хвёдараўка Краснап.

КО́МІН, -а, *м.* Комін. *З коміна йдзе дым.* Сідараўка Хоцім. *Нада комін пачысьціць, ато ўжо сажы сыбралысь многа — каб ні зыгарелысь.* Новыя Капачы Мсцісл. *Ны хаце зываліўся комін, і дым ня йдзець — нельга печы тапіць.* Шумячы.

КО́МІНШЧЫК, -а, *м.* Камінар. *Зіма ныдаходзіць, нада комінишчыка ныняць, штоб усі дымаходы ў печых павычысьціў.* Клімавічы.

КО́МНЫТА, -ы, *ж.* Пакой. *Комныту абклеіць нада, ды абоі до́рыгі — ні прыступісься.* Зарэчча Мсцісл.

КО́МПІРАЦІЎ, -ва, *м.* Кааператыў. *У компіраціве даюць соль.* Тульдава Раснян.

КО́МЫ, -ыў, *мн. л.* Камы (камякі). *Маці зварíла комы, дык мы елі з пыстыялкый.* Барысавічы Клім.

КОН, -у, *м.* Кон. *Дай яму мяч, ніхай б'ець нанува, пытаму што ён бій ня с кону.* Бяседавічы Хоцім.

КО́НАЎКА, -і, *ж.* Конаўка, коўш. *Зычарпні ў конаўку крыху вады.* Тур'я Чэрык. *Алесь, пыдай мне коныйку з вадою, я нап'юсь троху.* Крычаў.

КО́НІК, -а, *м.* Памянш. ад конь. *Абгадай сабе добрага коніка.* Юшкі Мсцісл.

КО́НПУС, -а, *м.* Компас. *Вучыціль пыказывай нам конпус: у ім стрелка тыкая, куды ні пывярнеш — іна ўсё у адзін бок станіць.* Шарэйкі Касцюк.

КО́НПЫС, -а, *м.* *Сяньні нам вучыціль пыказывай конпыс, ён пахож ны часы.* Бяседавічы Хоцім.

КО́НСКЫЯ ПУЧЧА. *бат.* Конскі шчавель. *Садок зарос конскім пуччым.* Хвёдараўка Краснап.

КО́НСЬКІЙ, *прым.* Конскі. *Конські гной луччы зы кароўські.* Машавая Бялынкав.

КО́НСЬКІЙ ШЧАВІЛЬ. *бат.* Конскі шчавель. *Расьце конській шчавіль дзе пупала: на вуліцы, ны двары, усюдых.* Парадзіна Мсцісл.

КО́НЧА, *прысл.* Абавязкова. *Мне нада конча яго бачыць, дзела ёсьць ды яго.* Баеўка. Крыч. *Ня конча ён, а хто-небудзь з вас.* Арцёмаўка Міласл.

КО́НЧЫК, -а, *м.* Памянш. ад канец. *Нада біць усім бічум, ато ліжыць кончыкум; іш, як біч зывастріўся!* Бяседавічы Хоцім. *Што вывіду нітычку, ‖ Кымару ны сьвітычку, ‖ Астануцца кончыкі, ‖ Кымару на штончыкі.* З нар. песні, М. Г. 147.

КО́НЫЎКА, -і, *ж.* Конаўка. *Дзе наша коныўка? Вады трэба зачэрпнуць.* Ушакі Чэрык.

КОНЬ, -я, *м.* Конь. *Конь запрежын — можна ехаць.* Арцёмаўка Міласл. *Замурдуваўсь конь ад вадней.* Канічы Касцюк. *Ці ні відзіў ты, часым, майго кыня?* Галоўчыцы Калінiншчына.

КО́НЮХ, -а, *м. заал.* Каня (птушка). *Конюх водзіцца ны балотых, гніздо дзелыіць на купніку, а яйца конюха ат торпу ні 'тлічыш — такія рудыя.* Лютня Краснап.

КО́ПТЫРЫМ, *прысл.* З верхам, вышэй краёў пасудзіны. *Ныклаў кашы міску коптырым.* Гібалы Касцюк. *Хыдзяйка прынісла ладык цэлыю міску с коптырым.* Кокатава Мсцісл.

КО́ПЫНЬ, -я, *м.* Капанка, крыніца капаная, сажалка. *Схадзі ў копынь ныбяры вады.* Бяседавічы Хоцім.

КО́РАБ, -а, *м.* Кораб. *Ныклала поўны кораб яец — буду прыдаваць.* Краснаполле.

КО́РАК, ко́рка, *м.* Абцас. *Пашыла сабе бацінкі на вісокіх корках.* Слаўнае Мсцісл. *Бушмакі на вісокіх корьких.* Палуж Краснап.

КОРМ, -у, *м.* Корм. *Нада прыдываць адну карову, ато корму ні хваціць — сена сёліта німа.* Журбін Бялынкав.

КО́РМНІЦА, -ы, *ж.* Пакінутая на кармленне свіння. *Сьвіньня-кормніца пы двару ходзіць.* Палуж Краснап.

КО́РМНЫЙ, *прым.* Кормны, кормлены на забой кабан. *Вось нішчасьця! Ета ж мой кормны кыбан падох.* Шыркі Раснян.

КО́РЧЫК, -а, *м.* Памянш. ад карэц. *Дай корчык вады, ніхай нап'юцца людзі.* Зарэчча Мсцісл.

КО́РЫНЬ, -я, *м.* Корань. *Вярбу пысадзі бяз корыня, толькі кол забі ў сырую зямлю — вырысьціць.* Парадзіна Мсцісл.

КО́РШМА, -ы, *ж.* Карчма. *Ехылі, ехылі — памерзьлі: пы дарозі заехылі ў коршму, выпілі троху.* Ушакі Чэрык.

КО́РШЫК, -а, *м. заал.* Каршун, шуляк. *Коршык лётыя, каб пісклят ні пыцапыў.* Хвёдараўка Краснап.

КО́СТЫЧКА, -і, *ж.* 1. Памянш. ад косць. *Костычкі ўсе мае піріламіла, так мяне карёжыць.* Васілёўка Хоцім. 2. Узор тканіны. *Баба ткала сукно ў костычкі.* Юшкавічы Раснян.

КО́СЬКАЦЬ, *дзеясл.* Клікаць каня словамі кось-кось-кось. *Стаў коськыць, дык конь бяжыць з хмызьняку.* Палуж Краснап.

КО́СЬЦІК, -а, *м.* Уласнае імя ад Кастусь. *Наш Косьцік пріехыў, пыдарункыў навёз усім.* Арцёмаўка Міласл.

КОСЬЦЬ, -і, *ж.* Косць. *Ох, быляць мае старыя косьці — нядуж я ўжо.* Барысавічы Клім. *Усё чыста паеў, міску вылізаў і косьці абсмыктаў.* Старае Сяло Мсцісл. *Абы косьць была цэла — мяса ырасьцець.* Вербеж Чэрык.

КО́СЯ, -і, *м.* Кося, конь. *Но, кося, но! Калыхай пымалу, скора дома будзім.* Заполле Раснян.

КОТ, -а, *м.* Кот. *Кот спыймаў мышанёнка малíнькыга.* Маляцічы Крыч.

КОТ-МЫ́ШКА, -і, *ж.* Гульня ў ката і мышку. *Дывайця будзім гуляць у кот-мышку.* Шарэйкі Касцюк.

КО́ЎДРА, -ы, *ж.* Коўдра. *А йдзе коўдра падзелысь, на кырваці яе німа?* Глінь Касцюк. *Накрый дзіця коўдрый, ато каб ні холадна было.* Машавая Бялынкав.

КО́ЎЗЫЦЦА, *дзеясл.* Коўзацца, слізгацца на лёдзе, па снезе. *Пёкла з Лёксый пабеглі ны рэчку коўзацца ны ляду.* Парадзіна Мсцісл. *Дзеці коўзаюцца з гары.* Васілёўка Міласл.

КО́ЎЗКА, *прысл.* Слізка, коўзка. *Ны дваре воблій: хадзіць стала коўзка.* Гібалы Касцюк.

КО́ЎРЫТЫ, -аў, *мн. л.* Вароты ў канцы вёскі. *Коўрыты расчынены, можна ехаць.* Васілёўка Хоцім. *Во, ні зышчапіў коўрытаў,*

*коровы вышлі зы сяло.* Новае Сяло Мсцісл. *Ён пріехуў у канец вуліцы, зьлез, аччыніў коўрыты і паехуў у поля, ні зачыніўшы іх.* Арцёмаўка Міласл.

КОЎТ, -а, *м.* Конскі кал. *Нымішай гліны с коўтым і зымаж дзірі, бо 'дна гліна дзіржацца ні будзіць. Кыўта ны дарозі ныбяреш.* Шумячы.

КОЎШ, -а, *м.* Коўш. *Ля крыніцы, там ляжыць коўш, дык нап'есься з кыўша.* Глінь Касцюк.

КО́ХВА, -ы, *ж.* Кава. *Паня кохву пьець. Кохвы мы нікыгда ні пробувылі — ета панськыя пойла.* Цівецкая Краснап.

КО́ХЛІК, -а, *м.* Коклюш. *У дзяцей кохлік, дык і ні сьціхаюць — кашляюць.* Юравічы Клім.

КО́ХТА, -ы, *ж.* Сукенка (кофта). *Дзяўчына пашыла сабе новую кохту.* Гарадок Міласл. *Ныбрала сабе на кохту.* Расна. *Кохта мыя ўжо пырвалысь, нада новую шыць.* Гусарка Клім.

КО́ХЦІ, -яў, *мн. л.* Пазногці, кіпцюры. *Пыабрэзвый ты свае кохці, ато на рукі глянуць страшна.* Хоцімск.

КО́ХЫЦЬ, *дзеясл.* Кашляць. *Ляжыць стары на печы ды кохыя.* Палуж Краснап.

КО́ЦІК, -а, *м.* 1. Памянш. ад кот. *Пусьці, дзетка, коціка, ня муч!* Баеўка Крыч. 2. Скурка звярка. *У цябе кайнерь ня целый коцік, а толькі сточкі з куской.* Слаўнае Мсцісл.

КОШ, -а, *м.* 1. Кош, кошык. *Насыпаў поўны кош бульбы — чуць прэць.* Ушакі Чэрык. 2. Кош, прылада лавіць рыбу. *Ідзі пыстаў кош, можа і ыпадзе ікая рыбіна на сьніданьня.* Лютня Краснап. 3. Кош, скрыня над каменем у млыне, у якую засыпаюць зерне. *Сып у кош з мішка, а я пыбягу глядзець, штоб мукі не 'тгартывалі.* Пірагова Мсцісл.

КО́ШКА, -і, *ж.* Кошка. *Кошка гырлач мылыка разьліла.* Малюшын Краснап. *Ня лезь да кошкі, бо абрапыіць кыгцямі.* Баеўка Крыч.

КОШТ, -у, *м.* Кошт, выдаткі на ўтрыманне. *Я ўзяў яго на мой кошт.* Хвёдараўка Краснап.

КПІ́НЫ, -аў, *мн. л.* Кпіны, насмешкі. *Ды чаго етыя кпіны, што я вам маліňкій ці што?* Ушакі Чэрык.

КПІЦЬ, *дзеясл.* Кпіць, насмяхацца. *Што ён усё сь цябе кпіць, а ты ўсё прышчаіш.* Слаўнае Мсцісл.

КРАВЕ́Ц, краўца́, *м.* Кравец. *Кравец папсуваў мне вопратку.* Лабанаўка Калінінічына. *Нада 'ддаць краўцу кажух сукном пыцягнуць.* Барысавічы Клім. *Кравец пашыў мне кажух, ды спорціў.* Заходы Раснян. *Кравец шшыў жупан і цяпер краіць шубку.* Арцёмаўка Міласл.

КРА́ЖА, -ы, *ж.* Кража, крадзеж. *Ён мяне вінываціць у кражы.* Слаўнае Мсцісл.

КРА́ЕЦ, кра́йца, *м.* Акраец. *Адрэж мне краец хлеба.* Жалезніца Крыч.

КРАЙ, -ю, *м.* 1. Край, старана. *Гэсты край ніколі ні пакіну — тут жы я радзіўсь.* Ушакі Чэрык. *Ета чылавек ні нашыга краю — ён чужаземіц.* Белы Мох Мсцісл. 2. Край, бераг. *Пыставіла міску ны самый край стыла, хто-ліба кіўнець стол, дык іна і пыляціць на мост.* Бяседавічы Хоцім. *Ён стыяў ад краю самы першы.* Старае Сяло Мсцісл.

КРАЙ, *прысл.* Абавязкова, крайне. *Край трэба сяньні ехыць туды.* Хвёдараўка Краснап. *Край як трэба купіць Ганьні сьвітку.* Добрае Мсцісл.

КРА́ЙКА, -і, *ж.* Пояс. *Мой брат падпыясыўся крайкай.* Маляцічы Крыч. *Я зьдзеыла сабе крайку з чырвонымі кісьцямі пыдпірязываецца ў празьнік.* Слаўнае Мсцісл. *Сістра ёсьць, а добрый крайкі табе ні выччыць пыдпірызацца.* Барысавічы Клім.

КРА́ЙНІЙ, *прым.* Крайні. *Ета крайнія дыска, дык абзол у ёй вялік.* Янаўка Мсцісл. *Зьмітрыва хата крайнія з сіла.* Негін Касцюк.

КРА́ЙЧЫК, -а, *м.* Памянш. ад краец. *Я ўзяў сяньні ў поля крайчык хлеба і корчык цыбулі, вось і ўвесь мой полудзень.* Юшкавічы Раснян.

КРА́ЛІ, -яў, *мн. л.* Каралі, пацеркі. *У Касі на шыі вельмі прыгожыя кралі.* Глінь Касцюк. *Матка купіла мне добрыя кралі— у нядзелю надзену.* Лабанаўка Калінінічына. *У дзяўчыны на шыі многа краляў.* Беразяк Краснап.

КРА́ЛІКІ, -аў, *мн. л.* Памянш. ад кралі. *Мама мне кралікі купіць на кірмашы.* Сабалёўка Калінінічына.

КРА́ЛЯ, -і, *ж.* Красуня, прыгожая дзеўка. *Пышла Сьціпанава краля.* Вінаградаў Міласл. *Ета дзеўка — проста краля.* Сапрынавічы Мсцісл.

КРАМ, -у, *м.* 1. Крамная матэрыя. *Ці прывезьлі ў кыпіраціў краму?* Бялынкавічы. 2. Крама. *Пойдзім у крам, купім саціну і пойдзем двору.* Хвёдараўка Краснап.

КРА́МА, -ы, *ж.* Крама. *Ну што гэста ў вас зы крама — мыла й таго німа!* Ушакі Чэрык. *Крамы яшчэ зачынены, яны адчыняюцца ў дзевяць гадзін.* Крычаў. *Калі раз абважыць, то болей ня пойдзіш к яму ў краму.* Пірагова Мсцісл.

КРА́НУЦЬ, *дзеясл.* Кінуць вобземлю, закрануць. *Янкый Васіль так крануў шчынка, што забіў.* Галынец Краснап.

КРАПЕЛЮ́ТКІЙ, *прым.* Малюпасенькі, невялічкі. *Гэткі крапелюткі быў у яго нос, ну ўсіроўна, як і німа яго.* Ушакі Чэрык.

КРАПІ́ВА, -ы, *м. бат.* Крапіва. *Ня лезь туды, там крапіва — абстрыкыысся.* Вярбоўка Раснян. *Нысякі ты, дзеўка, сьвіньнім крапівы.* Бялішчына Мсцісл. *Ты ня бойсь, гэта ж глухая крапіва, ні абстрыкае!* Парадзіна Мсцісл.

КРАПІ́ВІЦА, -ы, *ж.* Крапівіца. *Крапівіца ўвесь сад зыглушыла.* Меншая Багацькаўка Краснап.

КРАПІ́ЎНІК, -а, *м.* Пазашлюбнае дзіця, байструк. *Ганьнін сын — крапіўнік: ён радзіўся за месяц пы вясельлі.* Гібалы Касцюк.

КРАСЁЛКА, -а, *н.* Памянш. ад красала. *Дай мне сваё красёлка — пытухла, бач, люлька, агню выкрасаць.* Ушакі Чэрык.

КРА́СІВА, -а, *н.* Фарба. *Красіва дрэнныя: плішамі красіцца.* Палуж Краснап.

КРАСІ́ВЫЙ, *прым.* Прыгожы. *Які красівый у Мары на руке пярсьцёнык.* Канічы Касцюковічы. *Красівыя птушка айдот: красьніňкій і с чупым.* Арцёмаўка Міласл.

КРАСІЛЬЛЯ, -я, *н.* Аздоба, упрыгожанне. *Сьвятоя васільля, людзім красільля.* Маластоўка Краснап.

КРАСІН, -у, *м.* Газа. *Ганна, налі ў лямпу красіну.* Гарбавічы Қасцюк. *Наша лампа чуць зеріць сяньня, верна, красіну мала налілі.* Слаўнае Мсцісл.

КРАСІР, -у, *м.* Газа. *Пыдыражэў красір нешта, хуць ты сядзі вечырым упацёмку.* Лешчынка Мсцісл.

КРАСІЦЦА, *дзеясл.* Фарбавацца. *Ні красіцца нешта пряжа, верна, краска плыхая.* Палуж Краснап.

КРАСІЦЬ, *дзеясл.* Аздабляць вышыўкаю. *Буду красіць прылямку ў рубашкі.* Хвёдараўка Краснап.

КРАСКА, -і, *ж.* 1. Краска, кветка. *Ікая прыгожая краска расьцець у лузе!* Мсціслаў. *Дзеці пашлі на луг і нырвалі красык.* Ганнаўка Клім. *Ірвіця, дзеткі, краскі — я вам спляту вянок.* Гарбавічы Қасцюк. [2. Фарба].

КРАСНААРМЕІЦ, -йца, *м.* Чырвонаармеец. *Там нейкі краснаармеіц ідзець.* Пірагова Мсцісл.

КРАСНЫЙ, *прым.* Чырвоны. *Красныя хлагі кыла хат вывісілі, знаць, сяньні празьнік.* Арцёмаўка Міласл. *Красныя карова ўтапілысь сяньні ў балоці, дык чуць выцігнулі.* Бяседавічы Хоцім. *Гырлянка цьвіцець красным цьветам.* Пірагова Мсцісл.

КРАСУВАЦЦА, *дзеясл.* Красавацца. *Жывець сабе чылавек, красуіцца, а ты — сьвету божыга ні бачыш.* Хвёдараўка Краснап.

КРАСУЛЯ, -і, *ж.* Карова чырвонай масці. *Сяньні наша красуля луччы пад'ела, тык і болі мылыка дыла.* Бяседавічы Хоцім.

КРАСУХА, -і, *ж.* Прыгажуня. *Мыланка — дзеўка-красуха, за ёю ўсе хлопцы сохнуць.* Шумячы.

КРАСЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад краска. *Пылядзі, ікая красычка расьцець у жыці, сарві яе.* Мсціслаў. *А мыя ж ты красычка польныя!* Зарэчча Мсцісл.

КРАСЬНІНЬКІЙ, *прым.* Чырвоненькі. *Усып ягыд чарніц у гарелку, дык іна станіць красьнінька, і піць луччы тады.* Арцёмаўка Міласл.

КРАСЬЦЬ, *дзеясл.* Красці. *Абыноч хадзіў дровы красьць, а днём спаў.* Старае Сяло Мсцісл. *Яго нада атхлёпыць пы рукам, дык ня будзіць красьць.* Слаўнае Мсцісл.

КРАТЫЦЬ, *дзеясл.* Кратаць, рухаць. *Можна яго і кратыць, але дужа асьцярожна.* Лешчынка Мсцісл.

КРАШЭЦЬ, *дзеясл.* Харашэць. *Яна ўсё крашэіць і крашэіць, і старысьць яе ні бярэць.* Палуж Краснап.

КРЕПКІЙ, *прым.* Моцны, крэпкі. *Стыкан ськівуўся сы стыла і ні разьбіўсь — во крепкій.* Арцёмаўка Міласл. *Ету шапку я шостый год ужо нашу, а ўсё яшчэ крепка.* Бяседавічы Хоцім.

КРЕСЛА, -а, *н.* Крэсла. *Ён мне кресла пыдаў, сесьць пыпрасіў.* Қасцюшкавічы Краснап.

КРІВА, *прысл.* Крыва. *Кріва ты выразну правеў.* Сапрынавічы Мсцісл.

КРІВАПІЎЦА, -ы, *м.* Крывапівец. *Ня йдзі ты ды Сазона: ён сь цябе скуру зьдзярець, крівапіўца такей. Ого, толькі пупадзісь яму!* Шумячы.

КРІВАСМОК, -а, *м.* Крывасмок. *Қоньчылысь ваша жысь, крівасмокі пріклятыі, прі саветых ня будзіш кроў смыктаць.* Клімавічы.

КРІВАСОС, -а, *м.* Крывасос. *Ета ж Мыластоўскі куркуль, крівасос: уся акруга яго знаіць.* Цівецкая Краснап.

КРІВІЦЬ, *дзеясл.* Крывіць. *Дос табе душою крівіць, раньшы іначы кызаў, а цяперь ужу ныізад паехуў.* Арцёмаўка Міласл.

КРІВЫЙ, *прым.* Крывы. *Крівы твой кій, як дуга, ці ты луччыга ні знайшоў, што такей вырызаў.* Бель Бялынкав.

КРІВЯНІСТЫЙ, *прым.* Крывавы, з кроўю. *Сала нейкыя крівяністыя, с чаго б ета, га?* Мануйлы Краснап.

КРІК, -у, *м.* Крык. *Ад вашыга кріку здурець можна.* Қанічы Қасцюк.

КРІКАВІНЬНЯ, -я, *н.* Жабіна ікра, жабурынне. *З крікавіньня выходзяць гылывачыкі, а з гылывачыкыў — жабы.* Лютня Краснап.

КРІКНУЦЬ, *дзеясл.* Крыкнуць. *Ён крікнуў, аж водгульля пы лясу пашло.* Арцёмаўка Міласл.

КРІНДАШ, -а, *м.* Аловак. *Напісана тут нешта kріндашом, а што — ні прычытаю, сьцёрлысь.* Залачоўка Краснап.

КРІСЬЦЯНІН, -а, *м.* Селянін. *Ік заедзіш у горыд, дык ні начуй у заезьдзі, а едзь у Дом крісьцяніна, там луччы.* Арцёмаўка Міласл.

КРІЎДА, -ы, *ж.* Крыўда. *Кріўда вялікыя ў мяне была ны цябе, але серца ні камінь — адыйшло.* Залесавічы Крыч. *Ён такую кріўду скызаў мне ў вочы, што я аж зыплакыла.* Слаўнае Мсцісл.

КРІЎДЗІЦЦА, *дзеясл.* Крыўдзіцца. *Дос табе ны мяне кріўдзіцца — німа за што.* Слаўнае Мсцісл.

КРІШТАЛЬНЫЙ, *прым.* Крышталёвы. *Соль чыстыя, кріштальныя.* Бяседавічы Хоцім.

КРОВІ, -іў, *мн. л.* Менструацыя. *Нешта крові ня йдуць у дзеўкі.* Маластоўка Краснап.

КРОК, -а, *м.* Крок. *Ён сігаіць шпаркім крокам.* Қасцюковічы.

КРОКВА, -ы, *ж.* Кроква, доўгая жэрдка, што кладзецца адным канцом на сцяну будынка, а другім — на кладзь. *Пызыцігалі на пуню кроквы, січас паплёт будзім насьцілаць, а там і крыць можна.* Хвёдараўка Краснап. *Кроквы былі пыстаўліны вісока, паетыму і стріха крутая.* Слаўнае Мсцісл.

КРОМКА, -і, *ж.* Кромка, зрэзак ад матэрыі, край. *Етый кромкый пыдпірязывыцца можна, іна тыкая ладныя.* Шумячы.

КРОПІЛЬКА, -і, *ж.* Памянш. ад кропля. *Пылянь, як бліщчаць кропількі на сонцы, што сьлёзы на лісьціках.* Ушакі Чэрык.

КРОПЛЯ, -і, *ж.* Кропля, капля. *Утры нос, ато вунь ікая кропля вісіць.* Ушакі Чэрык.

КРОСНЫ, -сён, *мн. л.* Кросны. *Кросны ў хаці стыяць, а ткаць некыму.* Гібалы Қасцюк. *Пыставілі ў хаці кросны — будзім*

*ткаць пылатно.* Слаўнае Мсцісл. *Сяньні будзім снуваць кросны.* Луты Крыч.

КРОТ, -а, *м.* Крот. *У садзе крот усю зямлю парый. Пыставій снуду, каб злавіць крыта.* Слаўнае Мсцісл.

КРОЎ, крыві, *ж.* Кроў. *Зьмія ўкусіла, нада кроў выкытыць.* Лютня Краснап. *Абсьцёбылі хлыпца да крыві, што сесьць ні можыць.* Залачова Мсцісл.

КРОХКІЙ, *прым.* Крохкі, ломкі. *Гнілоя древа крохка і лёхка лумаіцца, яго ні сагнеш.* Арцёмаўка Міласл. *Вірьба крохка — січас лумаіцца.* Камароўка Крыч.

КРУВАПІЦ, -йца, *м.* Крывапівец, крывасмок. *Крувапіц ён: ён жа гатоў у цябе пасьледнія атыбраць.* Арцёмаўка Міласл.

КРУГ, -а, *м.* 1. Поўня, фаза месяца. *Ноччый відна — круг ныстаў.* Горка Краснап. 2. Круг. *Лі месіца круг вялікій — будзя веціp.* Заходы Раснян.

КРУГ, *прыназ.* Наўкола. *Пацугый круг хаты.* Хвёдараўка Краснап.

КРУГЛЫЙ, *прым.* Круглы. *Ны нашым полі ёсьць аборык круглы, як талерка.* Касцюшкавічы Крыч. *Памерлі мае бацькі, і зысталысь я круглыю сіратою на сьвеці.* Ушакі Чэрык. *Круглы год працую і адхону ніякыга няма.* Балакеры Мсцісл.

КРУГОМ, *прысл.* Кругом, наўкола. *Кругом нашыя дзяреўні роўнядзь: а ні табе древа, а ні кусьціку.* Пірагова Мсцісл. *Кругом саду зыгырыдзь цягніцца зь вярсту.* Слаўнае Мсцісл.

КРУЖАЛА, -а, *н.* Круглы лужок сярод поля, аборак. *Кыня можна нывізаць у сваём кружалі, там цяперь харошыя трыва.* Бяседавічы Хоцім.

КРУЖАНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Груба вылаяцца. *Зь ім ні гывары, ато як кружане пы маціpі, дык ні захочыш.* Хвёдараўка Краснап. 2. Голасна заспяваць хорам. *Яны, бывала, як кружануць песьню, дык у другой дзяреўні чутна!* Там жа.

КРУЖКІ, -оў, *мн. л.* 1. Лыкі з ліпы ў сувертах. *Браты з бацькым пашлі ў лес у кружкі — трэба лапці сплесьць.* Палуж Краснап. 2. Узор тканіны. *Дзяўчына ткала камлёт у кружкі.* Юшкавічы Раснян.

КРУЖНА, *прысл.* Кружна. *Туды ехыць кружна, ны пяць вярстоў дальшы — паедзім прама, січас балота высыхла.* Палуж Краснап.

КРУЖОЧЫК, -чка, *м.* Памянш. да круг. *Етый кружочык абтачыць нада, штоб гладкій быў.* Мсціслаў. *Калі ткаць у два ніты, дык ета проста, а ў шэсць — кружочкамі будзе.* Парадзіна Мсцісл.

КРУЖЭЛКА, -і, *ж.* Кружэлка, блок. *Зрабі кружэлкі для нітоў, бо ны палычках ні пірясоўвыюцца.* Аршаншчына.

КРУК, -а, *м.* Крук. *У столь убіт крук, і на ём вісіць люлька.* Смолькаўская Буда Бялынкав. *Задоўка вісіць на круку.* Горлава Раснян.

КРУМІЛА, -а, *н.* Абжора. *Во круміла — ён жа пыўбыханкі хлеба зьесьць зыраз.* Лютня Краснап.

КРУМІЦЬ, *дзеясл.* Прагна і многа есць. *Во пычаў круміць, усё роўна як трі дні нічога ні еў.* Лютня Краснап.

КРУМКАЧ, -а, *м.* 1. Крумкач, груган. *Зы бырязной крумкачы ходзяць — усякіх чырьвякоў выбіраюць, што ў зямлі сідзяць.* Цівецкая Краснап. 2. Крумкач, воран, дзіцячая гульня. *Будзім гуляць у крумкыча, я буду лавіць.* Балакеры Мсцісл.

КРУПЕНЬНІК, -а, *м.* Запечаная каша з грэцкіх круп. *Мама, зыпячы крупеньніка з яйцом, я вазьму з сабою — пы дарозі зьем.* Мануйлы Краснап.

КРУПЕНЯ, -і, *ж.* Крупеня, крупнік. *Сяньні ў нас ны абед будзіць крупеня з кыўбасою.* Баеўка Крыч. *Нывaрыла крупені з яшных круп з бульбаю.* Парадзіна Мсцісл. *Дзеці елі крупеню.* Шумячы.

КРУПНІК, -у, *м.* Крупнік. *Крупнік ужо застыў, пакуль вы прышлі.* Пархвенава Калінішчына. *Наелыся забеліныга крупніку, што да вечыра есьць ні зыхачу.* Галоўчыцы Бялынкав. *Еж, дзетка, крупнік ды йдзі на поля ды бацькі.* Іванаўка Хоцім.

КРУПЫ, круп, *мн. л.* Крупы. *Усё каша ды каша — і дзе ж яны бяруць крупы?* Ушакі Чэрык. *Абыдраў крупы, а палымкі сабе зыставіў.* Хвёдараўка Краснап.

КРУСАДНЯ, -і, *ж.* Курасадня, седала, месца, дзе садзяцца нанач куры. *Куры ўжо селі на крусадню.* Гібалы Касцюк. *Вечыр ужо — куры на крусадню сыдзяцца.* Азерцы Клім.

КРУСОДНЯ, -і, *ж.* Курасадня. *Стала зыхадзіць сонца, і куры сыбраліся на крусодню.* Слаўнае Мсцісл. *Нешта на крусодні курэй пужаіць — крічаць.* Зоры Чэрык.

КРУТА, *прысл.* 1. Крута. *Ён дужа крута пывярнуў кыня, дык воз і абярнуўся.* Арцёмаўка Міласл. 2. Энергічна, лоўка, спрытна. *Яна ў рабоці ня крута варочыіцца.* Хвёдараўка Краснап.

КРУТАГАЛОЎ, -ва, *м. заал.* Птушка крутагалоў. *Птушка крутагалоў дзелыіць гняздо ўсягды ў дупле.* Буда Казельская Краснап.

КРУТАРЭЛІ, -іў, *мн. л.* Кружалы [калаварот, калаўрот]. Крутарэлі робяцца так: убіваецца кол у лёд на лузе ці возеры, замарожваецца, на яго насаджваецца калясо, а да каляса прымацоўваецца жэрдка; да канца жэрдкі прывязваюцца санкі. Калі кола круціць, канец жэрдкі з санямі апісвае вялікі круг, развівае вялізную хуткасць. *Дывайця ізьдзелыім крутарэлі і будзім кыўзацца.* Хвёдараўка Краснап.

КРУТКІЙ, *прым.* Вёрткі. *Круткій хлопіц, яго ні скора пaбopіш: ён, як вужака, выкручыіцца.* Шумячы.

КРУТКЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Прудкасць. *Ён ні так сільный, як круткій, у руках і ныгах круткысьць быльшая.* Аляксандраўка Краснап.

КРУТНЯ, -і, *ж.* Круцельства. *Крутнёю мала пражывеш.* Брылёўка Краснап.

КРУТЫЙ, *прым.* 1. Круты, моцна скручаны. *Нада ніткі атсуківаць — дужа круты.* Арцёмаўка Міласл. *Круты бізун, ім можна скуру прасеч карові.* Горлава Раснян. 2. Стромкі, высокі. *З аднаго боку гыра была крутая, а з другога яна атлогліва спусчалась к рацэ.* Пірагова Мсцісл.

КРУХТАВІНЬНЕ, -я, *н.* Жабіна ікра. *Глянь-ка, колькі тут крухтавіньня ў етый*

*лужы жабы ныпускалі!* Лютня Краснап.

КРУЦЕ́ЛКА, -і, *ж.* 1. Закрутка да дзвярэй. *Ігнась зьдзелыў такую сабе круцёлку ў варотах у пуні, што, ня ведаючы, ні атчыніш.* Добрае Мсцісл. 2. Прылада матаць ніткі на цэўку. *Сунсувалысь круцёлка, і цэўкі нысукаць нечым.* Бялішчына Мсцісл.

КРУЦЕ́ЛКА, -і, *ж.* 1. Дзяўчына лёгкіх паводзін. *Табе ета дзеўка ні падходзіць: іна круцёлка, з кожным круціцца.* Хвёдараўка Краснап. 2. Юла. *Хлопчык забаўляецца круцёлкай.* Там жа.

КРУЦЕ́ЛЬ, -я, *м.* Круцель. *Во круцель — узяў грошы, а цяперь зубы зыгыварівыіць, аддаць ня хочыць.* Арцёмаўка Міласл. *Круцель ты, ні пыдманівый — ніхто ні паверыць.* Слаўнае Мсцісл.

КРУЦЕ́ЛЬКА, -і, *ж.* Круцелька. *Ета Сорка — круцелька, ні хадзі ты ды яе ў краму — абміщуліць.* Зубаўка Расtotoян.

КРУЦЕ́ЛЬСТВА, -а, *н.* Круцельства, ашуканства. *Знаім мы тваё круцельства, табе штоп як-небудзь ды абмануць.* Арцёмаўка Міласл.

КРУ́ЦІНЬКІЙ, *прым.* Вёрткі, рухавый. *У яго маліنькыя жонка, а тыкая бабычка круцінькыя сабе.* Арцёмаўка Міласл.

КРУЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Круціцца. *У цябе каток на восі ня круціцца — пыдмазый, відаць, мала.* Камароўка Крыч. 2. Кружыцца, аб'ездзіць свет. *Етый пулусвет дзе толькі ні круціўсь.* Брылёўка Краснап. 3. Выкручвацца, ухіляцца. *Круціўсь і так і етык — аднак прыйшлось аддаць нызад.* Старае Сяло Мсцісл.

КРУЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Звіваць. *Круці таўшчэйшыя перівязьні і тужэй снапы вяжы.* Краснаполле. 2. Затайваць, абманваць. *Скруціў мне пяцёрку.* Кокатава Мсцісл.

КРУЧА́ЛЫ, -аў, *мн. л.* Крывалы, прылада да калёс вазіць бярвенні. *На кручалах везьлі бервяно.* Журбін Бялынкав. *Зыпрягі-ка кручалы, нада ехыць зы бярвеньнім.* Бяседавічы Хоцім.

КРУЧО́К, -чка, *м.* Памянш. ад крук. *Трэба к кавалю йці кручок зрабіць.* Бязводзічы Мсцісл.

КРУЧЫ́НА, -ы, *ж.* Кручына, сум. *Кручына хлыпца заела — места сабе ні знойдзіць.* Зубаўка Расням.

КРУЧЫ́НІЦЦА, *дзеясл.* Сумаваць. *Ні кручыньсця так, рызьвісялісь троху.* Хвёдараўка Краснап.

КРУШЫ́НА, -ы, *ж. бат.* Крушына. *Сярод альховых кустоў вырыс куст крушыны.* Пірагова Мсцісл. *Дзеці лымалі крушыну.* Ганнаўка Клім.

КРУШЫ́НАВЫЙ, *прым.* Крушынавы. *На крушынавым кусьце растуць ваўчыныя ягыды.* Слаўнае Мсцісл.

КРЫ́ВА, *прысл.* Крыва. *Нешта ж твой воз пычаў асовываца, крыва ты яго, відна, ныклаў.* Пірагова Мсцісл.

КРЫВА́ЛЫ, -ыў, *мн. л.* Крывалы, прылада да калёс вазіць бярвенні. *Бацька паехыў у лес на крывалах.* Валымер Расням. *Нада кыня запрэгчы ў крывалы.* Маластоўка Краснап. *Пыклаў бярно на крывалы, ды ні прывізаў.* Варадзькава Крыч.

КРЫВАНДЖА́ЛЫ, -ыў, *мн. л.* Крывалы. *Садайсь на крывянджалы, паедзім.* Варадзькава Крыч.

КРЫВАНО́СІК, -а, *м.* Дзіцячая свістулька з гліны, конік. *Ны кірмашы купіў сынку крываносік — ніхай сьвішчыць.* Хвёдараўка Краснап.

КРЫВАНО́СІКІ, -ыў, *мн. л.* Пшанічныя аладкі з малаком. *Смашныя выйшлі крываносікі сяньні.* Хвёдараўка Краснап.

КРЫВА́ЦЬ, -і, *ж.* Ложак. *Чаго ты ляжыш на крываці — устань, пайдзём на вуліцу?* Новае Сяло Мсцісл. *Зысьцялі новыю пасьцілку на крываць.* Пірагова Мсцісл.

КРЫВАШЫ́Й, -я, *м.* Чалавек з крывою шыяй. *Куды ты пашоў, крывашый?* Брылёўка Краснап.

КРЫВЕ́ЛЬ, -я, *м.* Крываногі. *У нашыга крывіля ногі кульгаюць, а вочы мігаюць.* Барысавічы Клім.

КРЫВЕ́НЬ, -я, *м.* 1. Сляпы на адно вока. *Ён жа крывень, адно вока ў яго, а другоя выпыраў, як быў малы.* Барысавічы Клім. 2. Крывы. *Ну і груша стаіць у вас ны гародзі: нейкыя крывень!* Пірагова Мсцісл.

КРЫВІ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Крывіцца. *Твой левый сапог крывіцца, зынясі-ка ты яго к сапожніку, ніхай ыыправіць.* Прусіна Касцюк. 2. Недалюбліваць, сярдзіта паглядаць. *Ён крывіцца ны цябе, мыя нябога.* Горкі Краснап.

КРЫВІ́ЦЬ, *дзеясл.* Крывіць, рабіць крывым. *Ня крыві бырозны, пряма ідзі з плугым.* Прусіна Касцюк.

КРЫВО́ЦЬЦЕ, -я, *н.* Крывуля, плакса. *Крывоцьця нейкыя, а ні дзіцёнык.* Хвёдараўка Краснап.

КРЫВЫ́Й, *прым.* Крывы. *Ай, якей крывэй чылавек!* Хвёдараўка Краснап. *Зь етый крывой бярэзіны выйдзіць добрыя трыйня ў калёсы.* Бязводзічы Мсцісл.

КРЫВЯ́НІСТЫЙ, *прым.* Паўнакроўны. *Ён дужа крывяністый: як парежыць паліц, дык, верна, стыкан крові выйдзіць, пакуль ні пірістаніць цеч.* Бяседавічы Хоцім.

КРЫ́ГА, -і, *ж.* Крыга. *Крыгі ўжо паплылі пы Дняпру.* Крычаў. *Люблю вясною лумаць крыгі на речкі, штоб іх скарей няслo вадою.* Арцёмаўка Міласл.

КРЫЖ, -а, *м.* 1. Крыж. *Лі дарогі стаіць стары абамшэлы крыж.* Вінаградаў Міласл. *Памёр ён, і ны кладзішчы стала больш адным крыжам.* Ушакі Чэрык. 2. Крыжавіна (у каровы ці каня). *Як ударый колікым пы крыжу, дык конь і ногі пыдвярнуў.* Хвёдараўка Краснап.

КРЫЖАВІ́НА, -ы, *ж.* Крыжавіна. *Ударый ён бенную кабылу пы крыжавіні, аж увагнулась.* Ушакі Чэрык.

КРЫК, -у, *м.* Крык. *Гылыва рызьлігаіцца ат вашыга крыку-лоскыту.* Зубоўка Расням. *Хуць з крыкам, з гвалтым, але ж-ткі ўзялі.* Пірагова Мсцісл.

КРЫЛО́, -а, *н.* 1. Крыло. *У пеўня крыло нешта валочыцца пы зямлі — пірябіў нехта.* Горня Хоцім. 2. Адна палавіна страхі. *Крыло з хаты атлящела.* Брылёўка Краснап.

КРЫ́ЛУС, -а, *м.* Клірас, месца ў царкве для пеўчых. *Дзеўка на крылусі пяець.* Палуж Краснап.

КРЫЛЬЦО́, -а, *м.* Памянш. ад крыло. *У пісклёнка адно крыльцо ні валодыіць.* Лютня Краснап.

КРЫМА́ЧЫК, -а, *м.* Зламаны нож. *Ні было чым, дык крымачыкам атрэзаў.* Хвёдараўка Краснап.

КРЫМСА́ЦЬ, *дзеясл.* Крамсаць, рэзаць. *Што йта ты дзелыіш, нашто ты паперу крымсаіш?* Валымер Раснян. *Вой жа крымсая хлеб!* Хвёдараўка Краснап.

КРЫМЯНЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Цвярдзець, рабіцца пругкім. *Сьнег з поля сыйшоў — зімля стала крымянець.* Кокатава Мсцісл.

КРЫМЯ́НЫЙ, *прым.* Крамяны, цвёрды, пругкі. *Зямля стала крымяныя, ні ўвараш.* Кокатава Мсцісл.

КРЫНДА́Ш, -а, *м.* Карандаш, аловак. *Пякнуў ны зямлю крындаш — паднімі.* Хвёдараўка Краснап. *Я нашоў чырнільны крындаш і аддаў бацьку.* Бяседавічы Хоцім.

КРЫНДЖА́ЛЫ, -ыў, *мн. л.* Крывалы, прылада да калёс вазіць бярвенні. *Ны крынджалых возюць бярвеньні зь лесу.* Палуж Краснап.

КРЫНІ́ЦА, -ы, *ж.* Крыніца. *Прынясі, Іван, з крыніцы халодненькій вады.* Канічы Касцюк. *У крыніцы ўзімку выда цяплей, чым у рацэ.* Гарманава Мсцісл. *У крыніцы вада сьцюдзёна.* Пятроўка Чав.

КРЫНІ́ШНІК, -а, *м.* Топкае, балоцістае месца, дрыгва. *Конь пыпаў у крынішнік, дык я думаў, ня вылізіць — па клубы засеў.* Юшкавічы Раснян.

КРЫНІ́ШНЫЙ, *прым.* Крынічны. *Крынішныя выда халодныя, ня пі многа — прастудзісься.* Зарубец Крыч.

КРЫПІВА́, -ы, *ж. бат.* Крапіва. *Крыпіва больш длі прясла расьцець.* Вярбоўка Раснян.

КРЫСА́, -ы, *ж.* Краса, хараство, прыгажосць. *Ну, што зы крыса ў ёй — худая, доўгыя?* Парадзіна Мсцісл. *Яму цяпер трыццаць гадоў — самыя крыса жызьні.* Бяседавічы Хоцім.

КРЫСА́ЛА, -а, *н.* Красала, прылада высякаць з крэменя агонь. *Дыстань крэмень ды крысала і дабудзеш агню.* Лютня Краснап.

КРЫСЬЦЯ́НІН, -а, *м.* Селянін. *Які ж ён крысьцянін, калі бацька — поп?* Парадзіна Мсцісл.

КРЫ́ТЫЙ, *прым.* Крыты. *У яго пуня стаіць целый год ня крыта.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

КРЫ́УДЗІЦЦА, *дзеясл.* Крыўдзіцца. *Ты ўжо пакрыўдзіўся ны мяне, што я скызаў — праўда вочы коле!* Імíркі Раснян.

КРЫ́УДЗІЦЬ, *дзеясл.* Крыўдзіць. *Ня крыўдзі ты яго, бідus ягу, ён і так пакрыўджынэй.* Кокатава Мсцісл. *Мяне заўсёды крыўдзяць.* Беразяк Краснап.

КРЫХМА́Л, -у, *м.* Крахмал. *Вазьмі зывары крыхмал, нада нылашчоніць сарочкі.* Слаўнае Мсцісл.

КРЫ́ХУ, *прысл.* Крыху, нямнога. *Цябе трэба крыху адукываць.* Лешчынка Мсцісл. *Ты крыху пачыкай мяне, я зарыз прыду.* Беразяк Краснап. *Пылажы ў кашэль крыху гуркоў.* Тур'я Чэрык.

КРЫЦЬ, *дзеясл.* Крыць. *Калі ты будзіш сваю пуню крыць?* Імíркі Раснян.

КРЫЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Крычаць. *Нехта там у полі крычыць, з дарогі мо зьбіўся — зымірзаіць.* Негін Касцюк. *Ціха, ні крычы, бо горла зыбаліць.* Андраны Раснян.

КРЫ́ША, -ы, *ж.* Страха. *Трэба пуправіць крышу, ато йна прыцікая ў дождж.* Тур'я Краснап. *Дарнічка з крышы зьляцела.* Палуж Краснап.

КРЫ́ШКА, -і, *ж.* Вечка. *Зачыні крышку ў кублі ды засыўку прасунь.* Хвёдараўка Краснап.

КРЭ́ЙДА, -ы, *ж.* Крэйда. *Крэйды няма ў класе — пісаць нечым.* Віхраны Мсцісл.

КРЭНДЗЯДЗЮ́ЛІНА, -ы, *ж.* Выкрунтас. *Ну й крэндзядзюліну ты выкінуў.* Маластоўка Краснап.

КРЭ́ПКА, *прысл.* Моцна. *Брыца — сорныя трыва, іна крэпка сядзіць у зямлі цэлым кусьцікум.* Пірагова Мсцісл. *Ён узяў учгур і крэпка зьвізаў венік.* Тур'я Чэрык.

КРЭ́СЛЫ, -аў, *мн. л.* Накрыж пакладзеныя брускі, на якія ставіцца дзяжа. *Стынаві дзежку на крэслы.* Хвёдараўка Краснап.

КРЭСЕ́ЛЬЦЫ, -аў, *мн. л.* Памянш. ад крэслы. *Зрабіў бы ты, Хведар, крэсельцы пад дзежку, ато пыставіць не на чым.* Шарэйкі Касцюк.

КРЮК, -а, *м.* 1. Крук, кроква, ключ. *Латы прыбіты на крюках.* Пухнава Раснян. 2. Кружная дарога. *Паедзім туды, зьдзелыім крюк.* Палуж Краснап.

КРЮ́КЫМ, *прысл.* Крукам, згорбіўшыся. *Сядзеў крюкым кыла стыла і дрімаў, пыклаўшы гылаву на стол.* Арцёмаўка Міласл.

КРЮЧО́К, -чка, *м.* Крючок, мерка вадкасці — 1/4 кварты. *Дай мне крючок гарэлкі?* Тур'я Чэрык.

КРЮ́ЧЧА, -а, *н.* зборн. Крукі, ключы пад стрэху. *На гумно пылажылі крючча.* Машава Бялынкав.

КРЯЖ, -а, *м.* Бервяно. *Во кряж — ні падыміш на воз!* Хвёдараўка Краснап.

КРЯ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Кракаць. *Вуткі на возірі крякыюць.* Залачова Мсцісл.

КСЬЦІ́НЫ, -аў, *мн. л.* Хрысціны. *Ці скора ў вас будуць ксьціны — гэта ж больш месіца, як дзіцёнык радзіўся?* Ушакі Чэрык. *Сёньня ў Міхася ксьціны.* Андроны Касцюк.

КСЬЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Хрысціцца. *Ксьцісь ты: здаецца ета табе — нікога німа.* Парадзіна Мсцісл.

КУ́БАК, -бка, *м.* Кубак. *Вазьмі кубак ды зычарпні мне вады.* Каробчына Мсцісл.

КУ́БАЧАК, -чка, *м.* Памянш. ад кубак. *Разьбіў я свой кубачак і вады напіцца нечым.* Сапрынавічы Мсцісл.

КУ́БЕЛ, ку́бла, *м.* Кубел, кадушка з векам для сховы адзежы ці сала. *Наста, ідзі прынясі з кубла спадніцу.* Андроны Раснян. *Анеля длі свае Мар'і ныклала поўны кубел пылытна ў пысагу.* Барысавічы Клім. *Сёліта я ныклала повен кубел сала, ажно трох вяпрукоў забілі!* Пірагова Мсцісл.

*Учорашнію ноч у Мікіты выцігнулі з кубла ўсё сала.* Добрае Мсцісл.

КУ́БІК, -а, *м.* Кубік. *Хведзька нарэзыў з бярозы кубікаў.* Шарэйкі Касцюк.

КУ́БІЛ, кубла, *м.* Кубел, кадушка. *Мы сала ныклалі цэлы кубіл.* Белы Камень Бялынкав. *Вазьмі ў кублі кусочык сала.* Крычаў.

КУ́БЛІК, -а, *м.* Памянш. ад кубел. *Мамычка мыя кублік адзежы ныклала длі мяне, а другей — пылытна.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

КУ́БЛІЦА, -ы, *ж.* Кубел, кадушка. *Пыд полым стаіць кубліца сала.* Гарадзецкая Краснап.

КУБЛО́, -а, *н.* Кубел, кадушка. *Нада трубкі занесьць у кубло.* Новыя Капачы Мсцісл. *У кублу быў мёд.* Вусце Чэрык.

КУ́БЫВЫЙ, *прым.* Цёмна-сіні. *Пашыла сабе кубывый хвартух; цёмный, добра — ні мыраецца.* Парадзіна Мсцісл.

КУ́БЫЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад кубак. *Купіў я сабе ў кыпіріціві кубычык на ваду.* Краснаручча Раснян.

КУВА́ЛДА, -а, *н.* Кавалда. *У кузьні кувалда ляскыіць целый дзень.* Слаўнае Мсцісл.

КУВА́ЛЫК, -лка, *м.* Кавалак. *Кувалык сала атшматуя дый дасьць, бывала.* Хвёдараўка Краснап.

КУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Каваць. *Бацька павёў кыня куваць.* Краснаручча Раснян. *Мы думылі, сватка наш харош, ‖ Аж яго прігажство абычайныя: ‖ Ны гарбу тыпары куваць.* З нар. песні, М. Г. 35.

КУВЭ́РТ, -а, *м.* Канверт. *Купі там мне кувэрт — пісьмо пыслаць брату трэба.* Ушакі Чэрык.

КУГА́КЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Плакаць (пра дзіця). *Дзіцёнык кугакыя.* Палуж Краснап. 2. Крычаць (пра саву, зайцоў). *Сыва ў лесі кугакыя.* Там жа.

КУДЗЕ́ЛЬКА, -і, *ж.* Памянш. ад кудзеля. *З кудзелькі воўны я ныпряла два хунты пряжы.* Бяседавічы Хоцім.

КУДЗЕ́ЛЯ, -і, *ж.* Расчэсаны лён, скручаны ў ляльку для прымацавання да прасніцы. *Кудзеля мыя надта вялікыя, калі я яе спряду такую?* Маластоўка Краснап. *Дзеці абшкумацілі кудзелю.* Каробчына Мсцісл.

КУ́ДЗЕРКІ, -каў, *мн. л.* Памянш. ад кудры. *Вылізьлі кудзеркі ў яе з-пыд хусткі ды мішаюць глядзець.* Ушакі Чэрык.

КУ́ДЛА, -а, *н.* 1. Род, кодла. *Іхныя ўжо кудла такоя, ня могуць, каб ні надуць.* Палуж Краснап. 2. *ж.* Кудла, узлахмачаная, пакудлачаная галава. *Прычашысь троху, ато сядзіш, як кудла ікая.* Слаўнае Мсцісл.

КУДЛА́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Кудлачыць, блытаць. *Нашто ты кудлачыш бырады ў кудзелі, ета ж прасьць будзіць нельга?* Белы Мох Мсцісл.

КУДО́Й, *прысл.* Куды. *Кудой тут лепш ісьці — полям ці лесам?* Ушакі Чэрык.

КУ́ДРІ, ку́дзер, *мн. л.* Кудры, завітыя валасы. *У насьледства ад бацькі мне асталісь адны толькі кудрі.* Слаўнае Мсцісл.

КУДРЯ́ВЫЙ, *прым.* Кудравы, кучаравы. *Гылыва твыя кудрявыя, што іна думыіць?* Негін Касцюк.

КУДЫ́, *прысл.* Куды. *Ну, куды ты пойдзіш гэткай пагодай?* Ушакі Чэрык. *Куды цябе, татухна, зывяло?* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

КУДЭ́ЛЫК, -лка, *м.* Пудэлак, скрыначка. *Пастыянна ны стале стыяў у іго кудэлык, куды ён клаў разныі паперкі.* Ушакі Чэрык.

КУЁЎДЗІЦЦА, *дзеясл.* Прападаць, бавіцца дзе. *Дзе йта хлопіц еты целый дзень куёўдзіцца, што й абедаць німа.* Сутокі Мсцісл.

КУЁЎЧЫЦЦА, *дзеясл.* Клапаціцца ў гаспадарцы. *Цэльнінькій дзень, бедныя, куёўчыцца з гыршкамі: ны такую сям'ю нада ныварыць.* Палуж Краснап.

КУЖАЛІ́НА, -ы, *ж.* Кужэльнае палатно. *Мыя ты таечка, тваё пылатно — як кужаліна!* Расна.

КУ́ЖЫЛЬ, -ю, *м.* Кужаль, тонкае палатно. *Лён быў ладный, ныпряла тонка, ну і выткыла кужылю губык восім.* Слаўнае Мсцісл.

КУЖЭ́ЛЬНЫЙ, *прым.* Кужэльны, зроблены з кужалю. *Выткыла пяць губык пылытна, а ўснова ўсё кужэльныя.* Парадзіна Мсцісл.

КУЗАВО́К, -ўка, *м.* Кошык з лубу. *Я сяньні прінісла два кузаўкі быравікоў.* Бяседавічы Хоцім. *Вазьмі кузавок — грыбоў ныбяром.* Хоцімск.

КУЗА́ЦЦА, *дзеясл.* Коўзацца, слізгацца па лёдзе. *Ны канікулы я цэлый дзень кузалась на лёдзе, пакуль сьнег не засыпаў раку.* Мсціслаў.

КУЗЕ́НЬКА, -і, *ж.* Кузенька, маленькі лубяны кошык. *Узіла кузеньку і пыйшла ў ягыды.* Хвёдараўка Краснап. *Тут многа ягыд, нада зьдзелыць кузеньку і ныбраць нямнога двору.* Бяседавічы Хоцім.

КУ́ЗІК, -а, *м.* Гузік. *Прышый мне ў каўнер кузік.* Бялішчына Мсцісл. *У мяне ад сарочкі адырваліс усі кузікі, і зысьцягнуцца нечым.* Смолькаўская Буда Бялынкав.

КУ́ЗЫЎ, -а, *м.* Кошык з бяросты. *Сяньні я ныбрала ў лесі целый кузыў грыбоў.* Бяседавічы Хоцім.

КУ́ЗЬНЯ, -і, *ж.* Кузня. *Кылі б тут блізка кузьня была, дык бы кыня пыдкувалі, і калёсы нада було б абкуваць.* Арцёмаўка Міласл.

КУ́КА, -і, *ж.* Кукіш, фіга. *Дай яму куку пад нос.* Хвёдараўка Краснап.

КУКАЛУ́ША, -ы, *ж.* Чаромха. *У нас кукалуша расла ны гародзе паміж кольляў, і дзед мне кызаў, што яна з гэтай прычыны і завецца калакалуша.* Пірагова Мсцісл.

КУ́КНУЦЬ, *дзеясл.* Кукнуць. *Сяньні зязюля кукувала, а я лічыў — дваццаць восім раз кукнула.* Дзеражна Касцюк.

КУКО́БІЦЬ, *дзеясл.* Песціць, даглядаць. *Во ўжу пястота яму была ў маткі, кукобіла ўжы луччы німа куды.* Арцёмаўка Міласл. *Матка кукобіла дачку, пакуль замуж аддала.* Слаўнае Мсцісл.

КУ́КСА, -ы, *ж.* 1. Кукла, валасы, закручаныя на патыліцы (у жанчын). *Скруціла выласы ў куксу.* Хвёдараўка Краснап. 2. Нараст на дрэве. *Лянь, якая кукса ны бярёзі вялікыя вырысла.* Там жа. 3. Бяспалы. *Учора Іван у лесі, рэзыўшы дровы, адхваціў паліц, во і зыстаўсь цяпер куксай.* Добрае Мсцісл.

КУ́КСІЦЬ, *дзеясл.* Плакаць, хныкаць. *Чаго ты куксіш? Зымаўчы, ато ік дам, то тады ўжу будзіць чаго куксіць.* Залачэўка Краснап.

КУКУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Кукаваць. *У лесі ўжо зязюля кукуя, я ўчоры чуў.* Янаўка Мсцісл.

КУКУ́ЛЬКА, -і, *ж.* Зязюлька. *Ужо кукулька ня кукуя.* Краснаполле. *Кукулька ў садзе нашым кукуя.* Палуж Краснап.

КУКШЫ́Н, -а, *м.* Збан з ручкаю. *Вазьмі ны паліцы кукшын з мылаком.* Разанцы Мсцісл. *Васютка, налі ў кукшын вады!* Шарэйкі Касцюк. *Я пычаў з дарогі ваду жлуктаць — кукшыны тры выпіў.* Парадзіна Мсцісл.

КУКЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Кукаваць. *Сяньні зязюля кукывала, а я лічыў — дваццыць восім раз кукнула і сьціхла.* Дзеражна Касцюк.

КУ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Кукаць, кукаваць. *Зязюля кукыя ў лесі.* Бардзіч Краснап.

КУЛА́ГА, -і, *ж.* Страва з аржаной мукі. *Матка дала дзецям на абед кулагі.* Усполле Расням. *Звары, маці, нам заўтра кулагу.* Тур'я Чэрык. *Кулага смашныя: ета такоя цеста — кісла-салодкае.* Парадзіна Мсцісл.

КУЛА́К, -а, *м.* 1. Кулак. *Як трэснуў кулаком у зубы, так той кроўю й абліўся.* Разанцы Мсцісл. *А я ж яму кашулічку шыю, ‖ А ён мяне кулаком у шыю.* З нар. песні. 2. Кулак, прыжымісты мужык, багацей. *Кулакі ў камуну ні пайдуць, ныйпачы, кылі ў іх зямлі ні адбіраюць.* Арцёмаўка Міласл.

КУЛАМЕ́СА, -ы, *ж.* Куламеса, мешаніна, суталака, калатня. *Што ў іх там робіцца — сам чорт ні рызьбярэць: куламеса тыкая, што біда.* Ушакі Чэрык. *Нехта пыд вакном крыкнуў «пыжар», і пыднялась на сходцы куламеса.* Сохана Мсцісл. *У нас сяньні ня бульба, а нейкыя куламеса.* Канічы Касцюк.

КУЛАМЕ́СІЦЦА, *дзеясл.* Балавацца з цестам. *Нашто дзіцёнык куламесіцца — адвядзіця яго ад дзежкі.* Хвёдараўка Краснап.

КУЛАМЕ́СКІ, -аў, *мн. л.* Піражкі з пяску і гразі, што робяць дзеці. *Дзеці ны дваре дзелыюць куламескі.* Хвёдараўка Краснап.

КУЛДО́БІНА, -ы, *ж.* Калдобіна, ямка, выбітая калёсамі на дарозе. *Усунуўся ў кулдобіну і па повіс абмачыўся.* Парфенава Мсцісл. *Кулдобіна поўна вады.* Паходавічы Чэрык. *Глядзі ў кулдобіну ўедзіш — пірякулісьсі з возым.* Касцюковічы.

КУЛДЫ́КНУЦЦА *дзеясл.* Упасці, перакуліцца. *Во, кулдыкнуўся Сымон з воза.* Страмілава Мсцісл.

КУЛДЫ́КЫЦЦА, *дзеясл.* Перакульвацца. *Дывай мы будзім з табой ны траве кулдыкыцца ўніз гылавой.* Слаўнае Мсцісл.

КУЛДЫ́ЧЫНЬНЯ, -я, *н.* Невыразная гаворка. *Дзіцячыга кулдычыньня ні рызьбярэш, толькі ўжу як прывыкніш, тады пынятна, што дзіцёнык кажыць.* Зарубец Крыч. *Нільзя было пыняць, што дзіцёнык гывырыў, ета була ні гаворка, а кулдычыньня нейкыя.* Арцёмаўка Міласл.

КУЛДЫ́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Балбатаць (пра індыка). *К індыком як пыдайдзеш, дык яны кулдычуць.* Арцёмаўка Міласл.

КУЛДЫ́ЯЧЫЦЬ, *дзеясл.* Гаварыць неразборліва. *Кулдыячыць нешта, што ні рызьбярэш.* Крычаў. *Іна як закулдыячыць, дык нічогінька ні пайму.* Куркаўшчына Мсцісл.

КУЛЁК, кулька́, *м.* 1. Сноп саломы. *Кулёк саломы важыць хунтаў дваццыць пяць.* Машавая Бялынкав. *На ету крышу пашло дзьве сотні кулькоў.* Бяседавічы Хоцім. 2. Мяшок з грубага палатна. *Вазьмі больш кулькоў, ато нскуды будзіць ссыпаць дробную бульбу.* Бяседавічы Хоцім.

КУЛЁШ, -а, *м.* Кулеш. *Кулеш у нашый мясцовысьці — асмаковыныя іда.* Пірагова Мсцісл. *Сяньні кулеш вельмі смачны.* Крычаў. *Кулеш у латушцы за засланкай стаіць.* Аршаншчына.

КУЛІ́СА, -ы, *ж.* Прасека ў лесе. *Прыклалі кулісы ў лесі, пыдзялілі на дзілянкі.* Хвёдараўка Краснап.

КУЛІ́ТКА, -і, *ж.* 1. Звязка льну па 40 жменек. *Ці многа вы нымялі кулітак лёну?* Новыя Капачы Мсцісл. 2. Каравай хлеба. *Вазьмі ету кулітку хлеба ў дарогу — іна крыху большыя.* Ясень Краснап.

КУЛУПА́ЦЬ, *дзеясл.* Калупаць. *Не кулупай пальцым у носі.* Гібалы Касцюк. *Хто ета кашу браў з махоткі — нехта ўжу кулупаў тут?* Арцёмаўка Міласл.

КУЛУПНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Калупнуць, запрасіць высокую цану. *Кулупнуў зь яго як з быгатыга.* Хвёдараўка Краснап.

КУЛЬ, -я, *м.* Вялікі сноп саломы. *Ля гумна ліжала шмат кулёў саломы.* Белы Мох Мсцісл.

КУЛЬГА́ВЫЙ, *прым.* Кульгавы. *Прышоў к нам дзед кульгавый, што з адным кыстылём ходзіць.* Бяседавічы Хоцім. *Яшчэ ў дзяцінстве я злымаў сабе нагу і цяпер на ўсё жыцьцё стаў кульгавым.* Слаўнае Мсцісл.

КУЛЬГА́ЦЬ, *дзеясл.* Кульгаць. *У яго, знаць, адна ныга кырачэй за другую, што ён кульгаіць, можа, яму ны вайне ета кантужыла.* Арцёмаўка Міласл.

КУ́ЛЬКА, -і, *ж.* Снежка. *У перапынку будзім біцца кулькымі — сьнег мяккі.* Шарэйкі Краснап.

КУЛЬМАНКІ, -оў, *мн. л.* Блінчыкі. *Сяньні маці ныпікла кульманкоў.* Маластоўка Краснап.

КУЛЬТУ́РНЫЙ, *прым.* Культурны. *Ён чылавек культурный, адукаванэй.* Чыгрынаўка Расням.

КУ́ЛЯ, -і, *ж.* Куля. *Куля пыпала проста ў сэрца.* Ушакі Чэрык. *Куля з ліваль-вэра наскрозь сьцяну прыйшла.* Бяседавічы Краснап.

КУЛЯМЁТ, -а, *м.* Кулямёт. *Чырвонар-*

*мейцы стрылялі з кулямёта.* Ґаннаўка Клім.

КУЛЯ́РЫ, -аў, *мн. л.* Акуляры. *Дзед носіць куляры, пытаму што біз куляраў ня відзіць.* Гібалы Касцюк.

КУМ, -а, *м.* Кум. *Пыпрасі за кума Хвёдыра, а за куму — Насту.* Навашоўкі Раснян. *Я свайго кума даўно ні бачыла, ці ні зыхварэў ён чысамі?* Дзеражна Касцюк.

КУМА́, -ы, *ж.* Кума. *Пазыч мне, кума, макітру.* Мсціслаў. *Кума з кумым стрецілісь на бызарі і выпілі троху.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Чэріз бор сысна ‖ Пывалілыся. ‖ Ай, кума с кумам ‖ Пысваріліся.* З нар. песні. М. Г. З.

КУ́МІЛЬГАЮ, *прысл.* Хутка, як слова сказаць. *Дуня пачула, што матка памерла — пабегла двору кумільгаю.* Гібалы Касцюк.

КУ́МІЛЬГЫМ, *прысл.* Хутка. *Яна ўпудзілысь, ды як хваціць кумільгым.* Куркаўшчына Мсцісл. *Толькі іна хацела зывізаць хвустку, дык матка кумільгым сыскачыла з печы — хваць за хвустку: вырвала з рук ды схвала.* Арцёмаўка Міласл.

КУМО́К, -мка, *м.* Памянш. ад кум. *Кумок ты мой! Памёр жа мой Васілька — твой хресьнічак.* Камароўка Крыч.

КУМПА́НІЯ, -і, *ж.* Кампанія, таварыства. *У Самуся з Радзівоным тыкая кумпанія — вадой ні разыльеш.* Палуж Краснап.

КУМПЯ́К, -а, *м.* Кумпяк, сцягно кабана. *Запечыный у хлебе кумпяк смашней за ўсё.* Бялішчына Мсцісл. *Во з естыга вапрука будуць добрыя кумпякі.* Буліна Касцюк.

КУМУНІ́СТ, -а, *м.* Камуніст. *Ён жа кумуніст, яшчэ ў высімнаццытым гаду пыступіў у парцію.* Арцёмаўка Міласл.

КУМУШО́К, -шка, *м.* Каменчык. *У яе быў харошый персьцін з красным кумушком, дык іна яго пыціряла.* Арцёмаўка Міласл.

КУ́МЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад кума. *Кумычка, ці можна будзіць мне сыснуваць дзве губычкі ны тваёй снувальні?* Бяседавічы Хоцім.

КУМЭ́ДЗІЯ, -і, *ж.* Камедыя, смешная падзея. *От учора кумэдзія была на сінакосі: Пархвеный конь, ат вадней уцікаючы, пірякуліў трі капы сена.* Мануйлы Краснап.

КУНВЕ́РТ, -а, *м.* Канверт. *Напісаў пісьмо, а кунверта німа і купіць недзе, хуць плач.* Шумячы.

КУ́НДЗІЛЬ, -я, *м.* Кундаль, сабака. *Кундзіль ты чортаў! Шляхціц-махціц, кундзіліў сын.* Хвёдараўка Краснап.

КУНПА́НІЯ, -і, *ж.* Кампанія. *Увыйшоў я ў хату, гляджу: сядзіць кыла стыла нейкыя кунпанія, чылавек пітнацыць.* Арцёмаўка Міласл.

КУ́НПЫЛ, -а, *м.* Купал. *У нашый цэрькві пыкрасілі кунпыл зялёныю краскыю, а ўсю цэрькву — белыю.* Слаўнае Мсцісл.

КУНЮШО́К, -шка, *м.* Памянш. ад канюх. *Кыла гнішча паселі кунюшкі ды грэюцца, а коні пашлі ў шкоду.* Беразякі Краснап.

КУ́ПА, -ы, *ж.* Купа, куча. *Купу грошы аддаў за мылацілку.* Машавая Бялынкав.

КУ́ПАЙ, *прысл.* Кучна. *Ружжо б'еці купай: увесь шрот у адным месьці — ні рысьсіваець.* Хвёдараўка Краснап.

КУПА́ЛА, -ы, *ж.* Купала, свята купалле. *Папырыць цьвіцець толькі на Купала. Кажуць, што калі сырваць етый цьвет, то будзеш усё чыста знаць, айдзе што ёсьць і дзе што дзелыіцца.* Зоры Крыч.

КУПА́ЦЦА, *дзеясл.* Купацца. *Я йшчэ ня купаўсь сёліта: ніяк не адважусь лезьць у воду.* Мсціслаў. *На етый плёскі добра купацца.* Хвёдараўка Краснап.

КУПА́ЦЬ, *дзеясл.* Купаць. *Нясі Люду сюды, будзем купаць, разьдзівай яе хучэй, ато выда прастыніць.* Мсціслаў.

КУПЕ́ЛА, -ы, *ж.* Начоўкі, у якіх купаюць дзяцей. *Прынясі купелу, нада дзіценка памыць.* Хвёдараўка Краснап.

КУПЕ́Ц, купца́, *м.* Купец. *Купец нашоўся ны карову: дзьвесьця сорык рублёў даець.* Навашоўкі Раснян. *Цімох зладзіў з купцом.* Палуж Краснап.

КУПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Купіць. *Трэба купіць аполак ны забор.* Тур'я Чэрык.

КУ́ПНІК, -а, *м.* Купнік, куп'ярватае балота. *Па купніку касіць ніўдобна.* Краснаручча Раснян. *Што ета за луг — адзін купнік!* Хвёдараўка Краснап.

КУ́ПЛЕНЫЙ, *прым.* Куплены. *Купленых кароў пыгналі ў бойню.* Сохана Мсцісл.

КУПЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Купляць. *Я купляў яблыкі штучна, а ён — на хунт, дык у мяне больш вышла.* Канічы Касцюк.

КУПУРО́С, -а, *м.* Купарвас, сіні камень. *Агряном саветыіць пірід пасевым пшаніцу нымачывыць у вадзе с купуросым, штоб гылаўні ні було.* Хвёдараўка Краснап.

КУПЦЮ́РЫ, -оў, *мн. л.* Кіпцюры, пазногці. *У ястрыба дужа войстрыя купцюры.* Пірагова Мсцісл. *Злавілі саву, дык каб ты ведаў, якія ў яе вялікія купцюры, што ёй тую курыцу зыдраць — ірунда!* Слаўнае Мсцісл.

КУ́ПЧЫК, -а, *м.* Памянш. ад купец. *Купчык прыехыў клімувіцкі, цілят скупаць.* Барысавічы Клім.

КУРА́ПА, -ы, *ж.* Жаба. *Курапа прыгаець пы дарозе.* Чыгрынаўка Раснян. *Курапа ў балоце сквярэцца — ікру мечыць.* Юр'евічы Клім. *Увечыры пысьля дожджу выпуўзаюць курапы, яны паходжы ны лягушык, толькі такія тоўстыя, чорныя, што ні скачуць, а толькі поўзыюць.* Слаўнае Мсцісл.

КУРА́Т, *прысл.* Акурат, якраз. *Ны цябе паліто нада курат такоя, як і ны мяне.* Васілёўка Хоцім.

КУРА́ТНА, *прысл.* Акуратна, як мае быць. *Ён ходзіць куратна.* Хоцімск.

КУРА́ТНЫЙ, *прым.* Акуратны, спраўны. *Курацен удаўсь хлопіц у яго, што ні дай, зьдзелыіць, ды так куратна, што хуць куды.* Васілёўка Хоцім.

КУРАШЧЫ́ПКА, -і, *ж. заал.* Мурашка. *Мяне ўкусіла курашчыпка — дужа баліць, саднія.* Хвёдараўка Краснап.

КУРГО́Н, -а, *м.* Курган. *Прыехылі вучоныя нейкія, кургон рыскапываць — кажуць, грошы будуць шукаць.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

КУРГО́НЫК, -нка, *м.* Памянш. ад кургон. *Палож аброці тут на кургонык.* Брылёўка Краснап.

КУРДО́ПА, -ы, ж. Бульба. *Лёкса, ныскаблі курдопы ны вячэру.* Асмолавічы Мсцісл.

КУРДУ́ПА, -ы, ж. Моцны чалавек невялікага росту. *Ён такей курдупа, што й вялікыму ня зважыць.* Хвёдараўка Краснап.

КУРДУ́ПКА, -і, ж. Моцная жанчына невялікага росту. *Сам ён як жэрдзь, а жонка курдупка.* Хвёдараўка Краснап.

КУРДУ́ПЫЙ, прым. 1. Прыземісты, нізкага росту. *Чаго ты, курдупый, таўчэсься тут?* Палуж Краснап. *Мак наш у гэтым годзе зусім курдупы.* Пацкава Мсцісл. 2. Бязхвосты. *Нашаму сыбацы хто-та хвост атсек, дык ён цяперь стаў курдупый.* Гібалы Касцюк. *Наш сыбака курдупы, зато злы, яму хвост адсеклі.* Добрае Мсцісл.

КУРЁНЫК, -нка, м. Кураня. *Курёнык у цугун улез і ўтапіўся, а квакуха і ня відзіць.* Барысавічы Клім.

КУРЕ́Ц, курца́, м. Вушко ў лапці. *У етум лапці ўсі курцы пыатырвалісь, незышта абору зычапіць.* Бяседавічы Хоцім.

КУРІ́НЫЙ, прым. Курыны, курачы. *На куріным гнаю хырашо родзяць буракі.* Бяседавічы Хоцім.

КУРІСА́ДНЯ, -і, ж. Курасадня, месца, дзе садзяцца на ноч куры. *Курісадня дужа высокыя —курі ўзьляцець ні могуць.* Палуж Краснап.

КУРІ́ЦЬ, дзеясл. Курыць. *Прівык куріць, дык цяперь ужу вадзіць, а яшчэ ныйпачы, як увідзіць, што другей куріць.* Арцёмаўка Міласл.

КУ́РНІЦА, -ы, ж. Курніца, хата без коміна. *Такоя ў яго ўжо жыцьцё: жывець даетуля ў курніцы і коміна ні можыць пыставіць.* Навашоўкі Раснян.

КУРНЯ́Ў, выкл. Курняў. *«Курняў-курняў»,— крічыць кошка.* Слаўнае Мсцісл.

КУРНЯ́ЎКЫНЬНЯ, -я, н. Курняўканне, мяўканне. *З двыра было чутна каціныя курняўкыньня.* Слаўнае Мсцісл.

КУРНЯ́ЎКЫЦЬ, дзеясл. Курняўкаць, мяўкаць. *Кошка курняўкыя зы дзьвярьмі, упусьці ў хату.* Студзянец Касцюк.

КУРО́СЫНЬНЯ, -і, ж. Курасадня. *Вічареіць: курі на куросыньню пашлі.* Цівецкая Краснап.

КУ́РТА, -ы, ж. Куртка. *Дай маю курту, я хачу надзець, ато халодна нешта.* Новае Сяло Мсцісл. *Сшыла сабе курту.* Хвёдараўка Краснап.

КУ́РТКА, -і, ж. Куртка. *Трэба пашыць сабе новую куртку на восінь.* Башары Раснян.

КУ́РЦІК, -а, м. Памянш. ад курта. *Зося сшыла сабе курцік.* Восаў Краснап.

КУРЧА́ВЫЙ, прым. Кучаравы. *Курчавы хлапец — гылыва, як гарохывыя кітка.* Гібалы Касцюк.

КУРЧА́НЫ, -ыў, мн. л. Жэрдкі ў хаце пад столлю, на якія вешаюць адзежу. *Ня вешыйся на курчаны, злымаеш, дык ня будзе на што адзежу вешаць.* Барысавічы Клім.

КУРЧЫ́ГА, -і, ж. Корч. *Пад гэтыю курчыгаю вельмі глыбока.* Вародзькава Крыч. *Чаго ты сеньня ня прывёз курчыг у двору?* Новае Сяло Мсцісл.

КУ́РЧЫНА, -ы, ж. Асобная жэрдка ў хаце пад столлю, на якую вешаюць адзенне. *У нашый хаце німа курчыны, дык і адзежы німа на чым вешаць.* Людагошч Мсцісл. *Павесь хустку на курчыну.* Аршаншчына. *Павесь анучы на курчыну, няхай прасохнуць.* Гібалы Касцюк.

КУРЫ́НЦЫ, -аў, мн. л. Курыны памёт. *Пы хаці выляюцца курынцы, хуць ба пыдмялі троху.* Хвёдараўка Краснап.

КУ́РЫЦА, -ы. ж. Курыца. *Курыца зьнесла некылькі яец ды заседзіла, а мы й ні бачылі.* Малашкавічы Клім. *Ня лезь да піскылят, ато курыца вочы выдзіўбіць.* Негін Касцюк.

КУРЫ́ЦЬ, дзеясл. Курыць. *Дзед курыць піпку, а дзядзька курыць цыгаркі.* Сохана Мсцісл.

КУ́РЫЧКА, -і, ж. 1. Памянш. ад курыца. *Наша курычка зьнісла яечка.* Башары Раснян. *Курычка ходзіць пы двару і пысклятык водзіць.* Меншая Багацькаўка Мсцісл. 2. Грыб, лісічка. *Курычкі — дужа смашныя грыбы, яны жоўцінькія.* Хвёдараўка Краснап.

КУРЭ́НЬ, -я, м. Будка ў садзе, шалаш. *У садзі стыражы пыставілі курэнь.* Хвёдараўка Краснап.

КУРЭ́Ц, -рца, м. 1. Курэц, той, хто курыць. *Ты, курэц, ні спалі ты пуні, можыш выйсьці пакурыць на двор.* Башары Раснян. 2. Вушка ў лапці. *Курэц у лапці трэба патплесьці вярёўкый.* Крычаў.

КУРЯ́ТКА, -і, ж. Нараст на бярэзіне. *Бярёзывыя курятка добря гарыць.* Хвёдараўка Краснап.

КУС, -а, м. Кус, кавалак. *Зыхапіў кус хлеба ў руку ды пайшоў на ўвесь дзень із хаты.* Залесавічы Крыч. *Поп пяець не для Ісуса, а для хлеба куса.* Прыказка. Радзівонаўка Мсцісл.

КУСО́К, куска́, м. Кусок, кавалак. *Тый кусок сала я сышкварыла к блінам.* Пірагова Мсцісл.

КУСО́ЧЫК, -чка, м. Памянш. ад кусок. *Сала кусочык малінькій хуць укініш у капусту, дык усё смашней, як з алеім.* Баеўка Крыч.

КУСТ, -а, м. Куст. *У нас пыд вакном расьцець куст шыпшыны, дык во пах, калі расьцьвіцець.* Юркаўка Крыч. *Сяньні Рыгор Міхасёў забіў старую зайчыху — пыд кустом спала.* Затоны Раснян.

КУСУГЛО́БЫЙ, прым. Касавокі. *Куды ты прэсься, кусуглобый чорт?* Хвёдараўка Краснап.

КУСЬЦЮКО́ВІЧЫ, -іч, м. Касцюковічы, горад. *Сапрон ныняўся вазцом у Кусьцюковічы.* Палуж Краснап.

КУСЮ́ЛЬКА, -і, ж. Касюлька, ласкальная назва жарабяці, самкі. *Жырябілыся тыкая прыгожыя кусюлька, а цяпер змарнела.* Гарадзец Бабр.

КУТ, -а, м. Кут. *Ні пыстыяўшы ў парозі, на кут ня кідыйсь.* Бяседавічы Хоцім. *Пыставім-ка паску на кут.* Новыя Капачы Мсцісл.

**КУТА́С**, -а, *м.* Кутас. *У цябе пры поісі толькі адзін кутас, а дзе другей падзеўсь?* Ушакі Чэрык.

**КУ́ТНІК**, -а, *м.* 1. Бабыль. *Ны канцы сіла стаіць старынькыя хата-курніца, у ёй жывець кутнік Васіль.* Шчыпаў Расням. 2. Кутні, карэнны зуб. *Хверчыл выйрваў мне кутнік.* Хвёдараўка Краснап.

**КУТНЯ́**, -і, *ж.* Мешаніна, неразбярыха. *Тыкая кутня ў іх пыднілась, што ніхто ні ведыў, куды ісьці, што рабіць.* Ушакі Чэрык.

**КУ́ТЫЙ**, *прым.* Падкаваны. *Конь здаецца й куты, а скыўзаіцца.* Мсціслаў.

**КУЎЗА́ЦЦА**, *дзеясл.* Коўзацца, слізгацца на лёдзе. *Рэчка во скора замерзьніць, тады будзіць дзіцям работы, куўзацца будуць па цэлым дням ны ляду.* Арцёмаўка Міласл.

**КУ́ФАР**, -а, *м.* Куфар, вялікая скрыня з векам для сховы адзежы. *Манька купіла сабе куфар на пысагу.* Варанёва Крыч. *У куфру ляжыць пылатно, атреж і пашый сабе чэхлік.* Азерцы Клім.

**КУФЭ́РАК**, -рка, *м.* Куфэрак. *Ён ні хацеў атчыняць свайго куфэрка, штоб ні ўбачылі, што ў яго ёсьць.* Ушакі Чэрык.

**КУХА́РКА**, -і, *ж.* Кухарка. *На кухні з абедым вазілыся кухарка.* Слаўнае Мсцісл.

**КУ́ХАРЬ**, -а, *м.* Кухар. *Абеды ў сталоўкі нікуды ні гыдзяцца, знаць, кухарь ня ўмеіць зваріць.* Мсціслаў.

**КУХВА́ЙКА**, -і, *ж.* Куфайка, кароткая верхняя вопратка на ваце. *Надзень ты, Зося, хоць кухвайку, ато будзіць халодна.* Зоры Чэрык.

**КУ́ХЛІК**, -а, *м.* Кухлік, маленькі збанок з ручкай, які ўжываецца як кубак. *Дай мне кухлік мылыка.* Куркаўшчына Мсцісл. *Мы замест кыўша ўжываем кухлік.* Крычаў. *Налі ў кухлік мылыка ды пыстаў у печ, ніхай аттопіцца.* Слаўнае Мсцісл.

**КУХТУ́ЛЬ**, -я, *м.* Кухталь, удар кулаком. *Дай яму кухтуля ў плечы, дык будзе ведыць, як смашна.* Палуж Краснап.

**КУ́ХТЫЦЬ**, *дзеясл.* Кутаць, цёпла адзяваць. *Нашто ты кухтыіш так дзіцёнка ў шубу, у адзіяла, ён жа будзіць быяцца прастуды.* Слаўнае Мсцісл.

**КУ́ХЫРЬ**, -я, *м.* Кухар. *Сам кухырь плячонку зьлізаў, а на коціка скызаў.* Багацькаўка Мсцісл.

**КУЦАПА́ЛЫЙ**, *прым.* Куксаты, бяспалы. *Куцапалый чорт, ці ў цябе пальцыў німа, што ўзяць ні можыш.* Палуж Краснап.

**КУЦО́БКА**, -і, *ж.* Куцы, нізкарослы. *Во йдзець куцобка нейкыя: ростым аршын з шапкый.* Хвёдараўка Краснап.

**КУЦУЛА́ПЫЙ**, *прым.* Касалапы. *Якей ты куцулапый, рукі, як калода.* Палуж Краснап.

**КУ́ЦЫЙ**, *прым.* Куцы, кароткі. *Ён нейкі куцы чылавек.* Залесавічы Крыч.

**КУЦЬЦЯ́**, -і, *ж.* Куцця, салодкая каша з ячменных круп, варыцца перад калядамі і Новым годам. *Нываралі куцьці на ўсе кыляды.* Маляцічы Крыч. *Мароз, мароз! Хадзі куцьцю есьці, ды ні пымарозь нашыя гречкі.* Казельская Буда Краснап.

**КУ́ЧА**, -ы, *ж.* Куча. *Нывазіў сабе з лесу вялікую кучу хворысту.* Сохана Мсцісл. *Зьмяці азадзьдзе ў адну кучу.* Лешчынка Мсцісл.

**КУЧМА́**, -ы, *ж.* 1. Кучма, шапка з аўчыны. *Кучма йкая у цябе цёплыя.* Хвёдараўка Краснап. 2. Нерасчасаныя валасы. *Ета ж кучма вешна так ходзіць, хуць ба раз прычысала ты сваю гылаву.* Бяседавічы Хоцім. *Прічашы выласы ны гылаве, ато кучма-кучмой, глядзець брыдка.* Слаўнае Мсцісл. *Антось абстрыг сваю кучму, дык і ні пызнаць цяпер — пымыладзеў.* Маляцічы Крыч.

**КУЧМА́СТЫЙ**, *прым.* Кучмасты, лахматы. *Гылыва кучмастыя, ік у быріна. Хвост у кабылы кучмастый.* Бялынкавічы.

**КУЧО́МКА**, -і, *ж.* Памянш. ад кучма. 1. *Хлопцу купілі на зіму новую кучомку. Няма мае кучомкі, і надзець німа чаго, вушы могуць памерзнуць.* Крычаў.

**КУ́ЧЫР**, -а, *м.* Рамізнік. *Кучыр пыдвярнуў кыня к ганкым.* Тур'я Краснап.

**КУЧЫРА́ВЫЙ**, *прым.* Кучаравы. *Кучыравы быў гэсты хлопіц — увесь, як быран.* Ушакі Чэрык.

**КУЧЫРА́ЎЧЫК**, -а, *м.* Кучараўчык. *Ну гэста ж наш кучыраўчык бяжыць — такіх жа выласоў німа ні ў кога.* Ушакі Чэрык.

**КУША́К**, -а, *м.* Пояс. *Я купіў сабе новый кушак у кыпіраціве.* Крычаў. *На рынкі прыдаюць кушакі.* Шумячы.

**КУ́ШЫЦЬ**, *дзеясл.* Есці, спрабаваць яду. *Трі дні хлеба ня кушыла.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

**КУЮГА́Н**, -а, *м.* Дужы, здаровы чалавек. *Еткій куюган — што яму атходзіць!* Хвёдараўка Краснап.

**КШЭНЬ**, *выкл.* Вокрык на каня. *Кшэнь, прыклятыя! Вот так і лезіць да сена.* Хвёдараўка Краснап.

**КЫБА́Н**, -а, *м.* Кабан, парсюк, вяпрук. *Наш кыбан дужа жырный, ужо калоць можна.* Старае Сяло Мсцісл. *Кыбына пысадзілі ў засыдку на 'дкорм.* Палуж Краснап.

**КЫБА́НЧЫК**, -а, *м.* Памянш. ад кыбан. *У вас кыбанчыкі яшчэ ні зьліхчаны? Калі ж вы будзіця іх ліхчаць?* Кокатава Мсцісл. *Пызасохлі заперы ў кыбанчыка.* Хвёдараўка Краснап.

**КЫБА́Т**, -а, *м.* Кабат. *Нада купіць мне аршын сіццу ды шшыць мне другей кыбат к етыму андраку, ато етый ужу пырваўся.* Арцёмаўка Міласл. *К сіній спадніцы прышый чырвоный кыбат — будзіць дужа прыгожа.* Слаўнае Мсцісл.

**КЫБА́ЦІК**, -а, *м.* Памянш. ад кыбат. *Ой, якей добрый ты сабе кыбацік пашыла!* Новае Сяло Мсцісл.

**КЫБЫЗІ́ЦЦА**, *дзеясл.* Кабызіцца, упірацца. *Дос табе кыбызіцца, думыіш доўга цябе ўпрашываць будзім — вот пі, кылі даюць!* Арцёмаўка Міласл.

**КЫБЫЗО́М**, *прысл.* Вытыркнуўшыся. *Ні ў галавы, ні пад бок — тырчыць кыбызом.* Палуж Краснап.

**КЫВАЛЕ́Р**, -а, *м.* Кавалер. *Нейкі кывалер ідзець з барышнію, і надзет, як поп якей.* Арцёмаўка Міласл.

**КЫВАЛЁЎНА**, -ы, *ж.* Кавалёўна, дачка каваля. *Етыя кывалёўна дык ужу ні зна-*

*іць, што й надзець ны сябе — штодзень сукенка новыя.* Шчыпаў Раснян.

КЫВА́ЛЫК, -лка, *м.* Кавалак. *Зьмяў кывалык хлеба с салым і яшчэ есьць просіць.* Гарадок Раснян. *Разырвала паперу на дробныя кывалкі.* Сідараўка Краснап. *Лавышнік адшархнуў ад целыя трубкі кывалык мацерыі.* Слаўнае Мсцісл.

КЫВА́ЛЬ, -я, *м.* Каваль. *У вёсцы Кылатовіне жывець кываль Янкель.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Твой тапор мяккій, яго трэба атнесьць ды кывыля загуртуваць.* Гібалы Касцюк.

КЫВІЛЮ́ГА, -і, *ж.* Вялікі кавалак. *Аткрымсаў кывілюгу хлеба, ці зьясі ж ты яго?* Хвёдараўка Краснап.

КЫВІРЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Крывіць, перадражніваць. *Стаў яго кывіряць, а тэй па мордзе даў, вось і шчапіліс біцца.* Маластоўка Краснап.

КЫВЯ́РЗЕ́НЬ, -зьня, *м.* Кавярзень, лапаць. *Ета ні лапаць, а кывярзень нейкій, па-люцку і лапця сплесьць ні можыш.* Зоры Чэрык.

КЫВЯ́РЗЫЦЬ, *дзеясл.* Няўмела плесць лапці. *Ты пляці добра, а ні кывярзый — глядзі, якія кывярзьні выходзюць у цябе.* Хвёдараўка Краснап.

КЫГАНО́К, -нка, *м.* Маленькая газоўка без шкла. *Бывала, зыпалю я кыганок і пряду целую ноч, а цяперь і днём ахвоты німа.* Бяседавічы Хоцім. *Ны комінку пыставілі кыганок, дык ён і гарыць усю ноч.* Сідараўка Краснап.

КЫЖА́Н, -а, *м. заал.* Кажан, лятучая мыш. *Цёмна было, кыжан ляцеў ды ўчапіўсь за белую хустку.* Парадзіна Мсцісл. *У старый церкві кыжаны зывяліся, ета мышы, што літаюць.* Слаўнае Мсцісл.

КЫЖА́НЧЫК, -а, *м.* Запаршывелае, закажанелае парася. *Алі ж мой парсючок нічога, чаму ў вас кыжанчык такі ўдаўсь?* Парадзіна Мсцісл.

КЫЖЫМЯ́КА, -і, *м.* Гарбар, скурняк. *Сымон-кыжымяка пріехыў аўчыны зьбіраць длі вырібу. Нада і нам атдаць.* Горкі Краснап.

КЫЗА́, -ы, *ж.* 1. Каза. *Наша кыза сёліта позна казілыся.* Сцяпанаўка Краснап. *Кыза ўзьлезла на воз і ўсё сена паела.* Маляцічы Крыч. 2. Прылада для коўзання з горак. *Я сяньні нымарозіў казу, заўтрі буду кытацца з гары.* Татаршчына Мсцісл.

КЫЗА́К, -а, *м.* Казак. *Затужылі кызакі, што зысталіся без тыбакі.* Сохана Мсцісл.

КЫЗАНЕ́Ц, -нца, *м.* Казанок, чыгунок. *Пыстаў кызанец ны кымлянок. ды нагрэй чаю.* Горкі Краснап.

КЫЗАНО́К, -нка, *м.* Казанок, чыгунок. *Я сабе кызанок купіў у сылдата.* Ясенка Краснап.

КЫЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Казаць. *Масьціpна ты зрабіў, што й кызаць!* Палуж Краснап. *Кызала ж, ні едзь ты наныч — прадпачувала маё серца, што нідобря будзіць.* Ушакі Чэрык.

КЫЗАЧО́К, -чка, *м.* 1. Танец казачок. *Скачы кызычка, кызачок у цябе добра выходзіць.* Хвёдараўка Краснап. 2. Васьмушка, 1/8 сажня дроў. *Пы кызачку дроў на двор прыходзіцца: сажынь на восім дварой.* Там жа.

КЫЗЫТА́ЦЬ, *дзеясл.* Казытаць, ласкатаць. *Пірістань кызытаць — я баюся, ні магу сьцерьпіць.* Шумячы.

КЫЗЬБА́, -ы, *ж.* Касавіца, сенакос. *Скора ўжу кызьба пычанецца, мужчыны будуць косымі зыняты, некалі будзіць і ў горыд зьезьдзіць.* Арцёмаўка Міласл.

КЫЗЬЛЯ́К, -а, *м.* Усякі грыб. *Белых грібоў німа йшчэ, ныбрала ўсякіх кызьлякоў і то нібыгата.* Залачэўка Краснап.

КЫЗЯ́К, -а, *м.* Грыб, казляк, масляк. *Ныварэла кошык кызякоў ны заўтра ны сьніданьня.* Зарэчча Мсцісл. *Кізякі смажаныя добра.* Сохана Мсцісл.

КЫЙМА́, -ы, *ж.* Кромка, каёмка. *Кыйма ны падолі дужа шырокыя, нада бы вузінькыю пришыць.* Цівецкая Краснап.

КЫЛА́, *прыназ.* Каля. *Кыла лесу гарела цяпло.* Гарбавічы Касцюк. *Сыбраліся дзеці кыла дзеда, а ён ім казкі рысказывыіць.* Пірагова Мсцісл. *Ні хацелыся галубцы ‖ Кыла голуба сядзеці.* З нар. песні, М. Г. 29.

КЫЛАНТЫ́Р, -а, *м.* Пост, пікет, варта. *Сылдаты йшлі і на кылантыр нямецкі пупалі.* Буда-Кашалёўская.

КЫЛАСІ́ЦЦА, *дзеясл.* Каласавацца, выплываць каласкам. *Жыта ладна пыднялось, кыласіцца пачынаіць — кыласкі ўжу высыпаюць.* Лютня Краснап.

КЫЛАСО́К, -ска, *м.* Каласок. *Кыласок пшаніцы сырваў паспрёбывыць на спелысьць.* Горкі Краснап.

КЫЛАЎРЁТ, -а, *м.* 1. Частка самапрадкі. *На етый сымыпрядкі прясьць нільзя, пытаму што кылаўрёт зламіўся.* Бяседавічы Хоцім. 2. Прылада для разматвання маткоў. *Надзень маток на кылаўрёт, дык хучэй размытаіш.* Халдзееўка Калініншчына.

КЫЛАЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Калаціцца, дрыжаць. *Спужаўся так, што аж стаў кылаціцца ад страху.* Палуж Краснап. *Еткій малады, а нада так адубець ат холыду, што аж лыткі калоцюцца.* Слаўнае Мсцісл.

КЫЛДАБЫ́ЧКІ, -оў, *мн. л.* Дзіцячая гульня. *Ты ня ўмеіш гуляць у кылдабычкі.* Хвёдараўка Краснап.

КЫЛДЫБА́ЦЬ, *дзеясл.* Калдыбаць, кульгаць. *Перабілі яму ногі, дык пычаў кылдыбаць.* Высокі Бор Краснап.

КЫЛІ́, *прысл.* Калі. *Бяры ў мяне пурсючка, кылі хочыш, ны падкорм.* Цірэні Раснян. *Кылі б у мяне былі грошы, дык ба я купіў кыня, ато завошта ж я яго куплю? Ты, кума, яшчэ загыдзя ні плач, кылі б зь ім што якоя случылысь, дык бы нашы напісалі.* Арцёмаўка Міласл.

КЫЛПА́К, -а, *м.* Каўпак, шапка лямцавая [войлачная]. *Надзень кылпак ны гылаву, ато сьцюдзёна.* Васілёўка Хоцім. *Чычы, сарока, ‖ Пріляцела здалёка, ‖ Села, пала ны таку ‖ У чырвоным кылпаку.* З нар. песні, М. Г. 149.

КЫЛЫБЕ́ЛЬ, -і, *ж.* Калыска. *Павесь кылыбель на курчыну і пыкладзі дзіцёнка: спаць хочыць.* Цірэні Раснян.

КЫЛЫКАЛУ́ША, -ы, *ж.* Чаромха. *Ета ўжу май, скора кылыкалуша будзіць*

*цьвісьць, нільзя будзіць рецьку сеіць, ато будзіць ствольная.* Арцёмаўка Міласл. *Вясной раньшы ўсіх дрэў цьвіцець кылыкалуша.* Лапаціна Мсцісл.

КЫЛЫМАШЫЦЦА, *дзеясл.* Таўчыся, збірацца ў адным месцы. *Кылымашыцца народ кылы кыпіраціва.* Хвёдараўка Краснап.

КЫЛЫХА́ЦЦА, *дзеясл.* Калыхацца. *Хлопчык етый во любіць у люлькі кылыхацца: сядзіць у люльку, возьміцца зы пачопкі і дывай рыскатывацца.* Арцёмаўка Міласл.

КЫЛЫХА́ЦЬ, *дзеясл.* Калыхаць. *Хоць бы ты дзіця кылыхаў, так плачыць, усё роўна нічога ні робіш.* Цірэні Расням.

КЫЛЯВІ́НА, -ы, *ж.* Каляіна. *Поўныя кылявіна вады, і ехыць німа як, пы самыя ступіцы хыпая.* Кокатава Мсцісл.

КЫЛЯ́ДНЫЙ, *прым.* Калядны. *А кылядныя бліны ладныя.* Багацькаўка Мсцісл.

КЫЛЯ́ДЫ, -яд, *мн. л.* Каляды. *На кыляды хлопцы зьбіраюцца зьдзелыць ігрышча.* Журбін Бялынкав.

КЫЛЯ́К, -а, *м.* Колік, кол. *Тут кыляк стыяў, і ўжо нехта выцігнуў.* Брылёўка Краснап.

КЫЛЯНО́К, -нка, *м.* Трыножнік, трыножкі. *Пыстаў кызанец на кылянок ды нагрэй чаю.* Горкі Краснап.

КЫЛЯНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Кальнуць, укалоць. *Кылянуў мне ў вока саломінаю.* Палуж Краснап.

КЫЛЯ́НЫЙ, *прым.* Каляны, жорсткі. *Ой, якей кыляный тывар. Ета кожа дужа кыляныя, дрэнныя зь яе будуць боты.* Палуж Краснап.

КЫЛЯРЁВЫЙ, *прым.* Каляровы. *Купіў кылярёвых кріндышэй — буду карцінкі рыскряшывыць.* Краснаполле.

КЫЛЯСО́, -а, *н.* Калясо, кола. *Прыбыло вады, і кылясо ў прудзі зыхадзіла дужа рухава.* Слаўнае Мсцісл.

КЫМА́Р, -а, *м.* Камар. *Кымары пукусалі ногі, дык дужа сьвірбяць — здаецца, абыдраў бы іх.* Парадзіна Мсцісл. *Нада ўжу хату закутыць, ато кымары ў хату ліцяць.* Арцёмаўка Міласл.

КЫМА́ШЫ, -ыў, *мн. л.* Камашы, чаравікі. *Я зьдзелыў сабе кымашы з простай кожы на восінь.* Журбін Бялынкав.

КЫМІСА́Р, -а, *м.* Камісар. *Прыбег у волысьць і ткі зыскачыў ішчэ кымісара.* Палуж Краснап.

КЫМО́РНІК, -а, *м.* Каморнік. *Пайдзем ны абмер, кыморнік прыехыў.* Янаўка Мсцісл.

КЫМІНЯ́, -і, *ж.* Куля [шар], зробленая з альховага наросту. *Сяньні гулялі ў кыміню.* Хвёдараўка Краснап.

КЫМЯ́ГА, -і, *ж.* 1. Карыта ля калодзежа, з якога пояць коней. *Чаго ты зь відра даеш каню, налі ў кымягу ды ніхай пьець.* Роськаў Калінінщчына. *Лі ў кымягу, ніхай усі п'юць.* Бяседавічы Хоцім. *Конь вады нап'ецца з кымягі.* Палуж Краснап. 2. Карыта для кармлення жывёлы. *Пылажы каню сена ў кымягу.* Бяседавічы Хоцім.

КЫМЯЦЕ́ЛІЦЦА, *дзеясл.* Валаводзіцца. *Пычаў ужо кымяцеліцца.* Хвёдараўка Краснап.

КЫМЯ́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Камячыць. *Етый дурынь прістаў ды яго біз дай прычыны і дывай кымячыць.* Палуж Краснап.

КЫНА́ВА, -ы, *ж.* Канава, роў. *Ны балоці прыкыпалі кынаву для стоку вады, і стала сушэй.* Крычаў.

КЫНА́П, -а, *м.* Канапа. *Сядзь вось ны кынап ды пысядзі троху, куды сьпішаісься?* Цівінская Краснап.

КЫНА́ПА, -ы, *ж.* Канапа. *Як быў я ў больніцы, дык там тыкая кынапа стаіць, во лоўка на ёй сядзець.* Арцёмаўка Міласл. *Расьсеўся на кынапе, як пан!* Смолькаўская Буда Бялынкав.

КЫНАПЕ́ЛЬКА, -і, *ж. бат.* Канапелька, дрыжнік. *Дзяўчынка нырвала пук кынапелік.* Хвёдараўка Краснап.

КЫНАПЛІ́, -пель, *мн. л.* Каноплі. *Падсоб-ка браць кынаплі, можа сам калі папросіш пянькі на боры.* Бяседавічы Хоцім.

КЫНАРЕ́ЙКА, -і, *ж.* Канарэйка. *Як жылі тут паны, дык у іх былі ў клеткых, у ваднэй — пупугай, а ў другэй — кынарейка, маленькыя тыкая. Пупугай гыварыў, а кынарейка, бувала, пела.* Арцёмаўка Міласл.

КЫНА́Т, -а, *м.* Канат, тоўстая вяроўка. *Нада прівізаць калоду кынатум і выцінуць на роўныю дарогу.* Бяседавічы Хоцім. *Калі чысьцілі калодзісь, дык узялі кынат, прівізалі к яму бочку ды спускалі яе ў калодзісь, а там ныкладывалі ў бочку грязь і выцягвалі.* Арцёмаўка Міласл.

КЫНІЦЕ́ЛІЦЦА, *дзеясл.* Валаводзіцца. *Кыніцеліўся ўсю ноч з коньмі, і цяпер хачу спаць.* Куркаўшчына Мсцісл.

КЫНІЦЕ́ЛЬ, -і, *ж.* Цяганіна. *Зывялі кыніцель на ўвесь вечыр, аж гылыва зыбалела.* Куркаўшчына Мсцісл.

КЫНКАТУВАЦЬ, *дзеясл.* Мадзець, гаравацаь. *Ні жывём, а кынкатуім — хіба ета жысьць?* Палуж Краснап.

КЫНПА́НІЯ, -і, *ж.* Кампанія, таварыства. *Наша кынпанія адбавіцца на пылавіну, таму шта сем чылавек звольнілі.* Лешчынка Мсцісл.

КЫНПЯ́К, -а, *м.* Кумпяк. *Кынпяк ужо прысалеў, нада павесіць яго.* Крычаў. *Атреж там кынпіка кывалык ды зьеш з хлебым.* Зоры Чэрык.

КЫНЦЫЛЯ́РСКІЙ, *прым.* Канцылярскі. *У цябе почырк ныстыяшчы кынцылярскі,* Слаўнае Мсцісл.

КЫНЧА́НЕ, -н, *мн. л.* Жыхары, што жывуць у канцы вёскі. *Кынчане нашы пашлі касіць лог.* Хвёдараўка Краснап.

КЫНЧА́ЛЬНЫЙ, *прым.* Канчатковы. *Кынчальныя твыя цына ікая будзіць, кажы, ні думый многа.* Мсціслаў.

КЫНЧА́ЦІЛНА, *прысл.* Канчаткова. *Ета ўжу кынчацілна, штоб ужу большы ні кызаць і ні тургувацца — вазьмі сорык рублёў за цёлку.* Арцёмаўка Міласл.

КЫНЧА́ЦІЛНЫЙ, *прым.* Канчатковы. *Ета будзіць твыя кынчацілная цына? Большы ні дасі? Ну дык і ні купіш.* Вітрунь Касцюк.

КЫНЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Канчаць. *У нас ужо такей звычай хадзіць мылаціць досьвітку і ды заўтріку кынчаць.* Бяседавічы Хоцім.

КЫНЫВЯ́З, -а, *м.* Краты, што прыстаўляюцца да саней ззаду, да іх прывязваюць коней. *Ладзюць кынывяз да саней, мабыць, на кірмаш паедуць з коньмі.* Халдзееўка Хоцім.

**КЫНЫПЛЯ́НІСТЫЙ**, *прым.* Канапляністы, колеру канапель. *А куріца ў цябе ікая кыныплянністыя.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

**КЫНЫПЛЯ́НЫЙ**, *прым.* Канапляны. *Кыныпляный сьцебіль дужа ломкій, як высыхніць.* Бабінкі Раснян.

**КЫНЫПЛЯ́НЬНЯ**, -я, *н.* 1. Канаплянішча, месца, дзе былі каноплі. *Куры ходзюць пы кыныпляньню.* Хвёдараўка Краснап. 2. Самая паласа з каноплямі. *Сёліта ў цябе вялікій кывалык кыныпляньня пасеін.* Там жа.

**КЫПА́ЦЬ**, *дзеясл.* Капаць. *Дзядзька ўзяў зілязьнік і пашоў кыпаць кынаву кыла буртаў.* Арцёмаўка Міласл. *Памёр Янкыў Хвёдыр, ужо й магілу пашлі кыпаць.* Крычаў.

**КЫПА́Ч**, -а, *м.* Капач, вілы, якімі капаюць гной. *Вазьмі кыпач ды гною ныкыпай.* Хвёдараўка Краснап.

**КЫПІРАЦІ́Ў**, -ва, *м.* Кааператыў. *Пайду ў кыпіраціў, нада купіць солі і красіну.* Бяседавічы Хоцім. *Ходзяць чуткі, што мацеры прывязуць у наш кыпіряцій.* Канічы Касцюк. *Пупайся мне ў кыпіраціві нож ні стальнэй, а зялезный, дык гнецца і ня режыць нічога.* Слаўнае Мсцісл.

**КЫПТА́Н**, -а, *м.* Каптан, пінжак. *Надзеў новый кыптан і ходзіць, як у празьнік.* Хвёдараўка Краснап.

**КЫПЯ́К**, -а, *м.* Стог, сціртa хлеба ў гумне. *Кладзі жыта ў кыпяк.* Хвёдараўка Краснап.

**КЫПЯЛЮ́Ш**, -а, *м.* Капялюш. *Ты глянь, Халімонывa Матрюна кыпялюш надзела, во дзіва!* Краснаполле.

**КЫРА́**, -ы, *ж.* Кара. *Атсычала ўжо кыра на дзерыві, зь вярбы ўжо можна дудкі спушчаць.* Зоры Чэрык. *Дубовыя кыра ідзець на выдзілку кожы.* Бабінкі Раснян.

**КЫРА́Б**, -а, *м.* Карабель. *Кырабы хлебым грузюць ды адпрыўляюць зы граніцу.* Бардзіч Краснап.

**КЫРАБО́К**, -бка, *м.* Скрыначка. *Целый кырабок зыпалак сапсуваў, пакуль зыпаліў — вось зыпалкі, каб на іх ліха!* Татаршчына Мсцісл.

**КЫРАВЕ́Ц**, -ўца, *м.* Кравец. *Наш кыравец скора атшыцца доўжын.* Канічы Касцюк.

**КЫРАВЫШНІК**, -а, *м.* Анучнік, гандляр, што збірае анучы. *Кыравышнік прыехыў, сыбірайце кыраўкі — зыпалык нада узяць.* Глінь Касцюк.

**КЫРАГО́Д**, -у, *м.* Карагод. *Дзеці гулялі ў кырагод.* Шарэйкі Касцюк. *Яны, дзеўкі, кылы кароў, знаць, скачуць ды кырагоды водзюць.* Арцёмаўка Міласл.

**КЫРАГО́Н**, -а, *м.* Сані-вазок для лёгкай язды. *Ой, якей добрый ў цябе кырагон, а ў ім ехаць — адна любыта!* Горна Краснап.

**КЫРАНТЫ́Ш**, -а, *м.* Каратыш, нізкарослы чалавек. *Кырантыш етый ні дыстаніць: калодычку пыдстаўляць нада.* Шумячы.

**КЫРАСІ́Н**, -у, *м.* Газа. *Ён нёс ў бліщчанкі кырасін і ні ведыў, што іна цякець.* Арцёмаўка Міласл.

**КЫРАТУ́ХА**, -і, *ж.* Каратуха, жанчына невысокага росту. *Дзейка — кыратуха, ростым зь вяршок.* Тур'я Краснап.

**КЫРАТЫ́Ш**, -а, *м.* Каратыш, малога росту. *Такій ішчэ кыратыш,— трі гады, а такія штукі атакалывыіць, што і вялікій ба ні прідумыў.* Слаўнае Мсцісл.

**КЫРА́ЎКА**, -і, *ж.* Караўка, ануча. *Вазьмі кыраўку ды выймі з печы цугун.* Бардзіч Краснап. *Мама прыдала кыравышніку кыраўкі.* Глінь Касцюк.

**КЫРАЦЕ́НЬ**, -я, *м.* Каратыш, невысокага росту. *Сёмка-кырацень, ніжэй зы яго ростым нікога німа.* Тур'я Краснап.

**КЫРА́ЦЬ**, *дзеясл.* Караць. *Свая матка кыраець і мілуіць, дык усё добра, а мачыха хуць і ні кыраіць, дык дрэнна.* Залачова Мсцісл. *Роднінькі мой! За што мяне б'еш, за што кыраіш?* Багацькаўка Мсцісл.

**КЫРВА́ЦЬ**, -і, *ж.* Ложак. *Ны кырваці ліжаць вялікія падушкі.* Белы Камень Бялынкав. *Устаў з кырваці ды зноў брык туды ж.* Хвёдараўка Краснап.

**КЫРДЫХЛЯ́НЬНЯ**, -я, *н.* Бульбоўнік. *Бярёска абкруціла ўсё кырдыхляньня, хаця каб кардохлім ні пашкодзіла.* Арцёмаўка Міласл.

**КЫРМА́Н**, -а, *м.* Кішэня. *Атлічыў грэшы і пыклаў у кырман.* Пірагова Мсцісл.

**КЫРНА́ЧЫК**, -а, *м.* Карначык, зламаны ножык. *Етым кырначыкым нічога ні атрежыш.* Хвёдараўка Краснап.

**КЫРХА́ЦЬ**, *дзеясл.* Кархаць. *Дзед устаць ні можыць: ляжыць узапічку і кырьхаіць у чыряпок.* Тур'я Краснап.

**КЫ́РХЫЦЬ**, *дзеясл.* Штурхаць у карак, выганяць. *Хлімон напіўсь і дывай усіх з хаты кырьхыць.* Палуж Краснап.

**КЫРЫВА́Й**, -ю, *м.* Каравай, хлеб для вяселля. *Вясельля ўжо кынчаіцца — ужо кырывай дзеляць.* Негін Касцюк.

**КЫРЫВА́ХА**, -і, *ж.* Каравайніца, поўная здаровая жанчына. *Ого, якую кырываху за жонку ўзяў.* Горкі Краснап.

**КЫРЫВЯ́ТНІК**, -а, *м.* Разнік, мяснік, што рэжа кароў і прадае мяса. *Кырывятнікі пыпрыехылі кароў купляць.* Хвёдараўка Краснап.

**КЫРЫНДА́Ш**, -а, *м.* Аловак. *Во кырындаш, пішы, а чарніла німа.* Арцёмаўка Міласл.

**КЫРЯ́ВЫШНІК**, -а, *м.* Анучнік. *Паехыў кырявышнік кыряўкі зьбіраць.* Хвёдараўка Краснап.

**КЫРЯНІ́СТЫЙ**, *прым.* Караністы. *Расьці, расьці, жыціка, кыряністы, кыласістыя і ўмалотныя.* Серчыцы Краснап.

**КЫРЯ́ЧКІ**, -ыў, *мн. л.* Карачкі. *Ды таго ныпаілі хлыпца, што на кырячкых выліз із хаты.* Цівецкая Краснап.

**КЫСА́**, -ы, *ж.* Каса (у розных значэннях). *У Міхася добра адкліпана кыса.* Бязводзічы Мсцісл. *Затраўка ў етыя касы дрэнныя.* Хвёдараўка Краснап. *У Мыланьні кыса да поіса пы плічам вісіць.* Цірэні Раснян. *Нада выкінуць сыбакым етую касу, уся ў больках.* Хвёдараўка Краснап.

**КЫСАВІ́ЦА**, -ы, *ж.* Касавіца, касьба. *Пятрок з бацькым пайшоў на кысавіцу.* Высокі Бор Краснап. *Падышла кысавіца, там і жніво пыдасьпела, работы — толькі ўпраўляйся.* Радзівонаўка Мсцісл.

КЫСАГО́Р, -а, *м.* Касагор. *Як пыкаціўся я з кысагору, дык чуць гылавы ня скруціў.* Хвёдараўка Краснап. *Ехылі пы кысагоры і абярнулісь у рыйчак.* Сохана Мсцісл.

КЫСА́НЬНЯ, -я, *н.* Датычнасць, дачыненне. *Якое маё дзела, мне ды яго ніякыга кысаньня німа.* Арцёмаўка Міласл.

КЫСА́РЫ, -оў, *мн. л.* Касары, танец. *Кысары скачуць у чатыры пары і прыпяваюць: «Гой, гой кысары! Што вы рана пычалі?»* Хвёдараўка Краснап.

КЫСА́СТЫЙ, *прым.* Касасты, з доўгаю касой. *Прыгожый, кысастый певень. Хадора наша — кысастыя дзеўка, кыса ды пят.* Палуж Краснап.

КЫСА́ТЫЙ, *прым.* Касаты. *Ластыўка кысатыя пыляцела.* Меншая Багацькаўка Мсцісл. *Прістүпіліся ды трі ластыўкі, ‖ Ды трі ластыўкі, трі кысатыя.* З нар. песні, М. Г. 69.

КЫСА́ЦІК, -а, *м. бат.* Касач, касацік. *Кысацікі растуць у садах, яны бываюць жоўтыя ці белыя.* Пірагова Мсцісл.

КЫСІЛЬНО́, -а, *ж.* Касільна, касавільна. *Паціху ты мыхай тут касою ў етым купніку, ато кысільно зломіш.* Бяседавічы Хоцім.

КЫСТАГЛО́Д, -а, *м.* Кастаглод. *Ах вы, кыстаглоды, усі яблыкі аб'елі!* Хвёдараўка Краснап.

КЫСТАЛО́М, -у, *м. бат.* Касталом, чарнакорань. *Калі косьці ломюць, знайдзі кысталом, ён расьцець лі садоў, у яго жоўтый цьвет, ды й, ныпарыўшы, выпі, дык пройдзіць.* Хвёдараўка Краснап.

КЫСТЫЛА́Н, -а, *м.* Шуба, пакрытая сукном. *Надзень кыстылан, бо вялікі холад, зьмерзьнеш у дарозі.* Бяліпчына Мсцісл.

КЫСЫВА́ТЫЙ, *прым.* Касаваты. *Добрыя дзеўка, а што трохі кысывата, дык ета ні зыгана.* Парадзіна Мсцісл.

КЫСЬБА́, -ы, *ж.* Касавіца, пара сенакашэння. *Кысьба настала — усі паехылі на луг, двору нікога ні зыстаніш.* Мануйлы Краснап.

КЫСЬЦЯНІ́ЦА, -ы, *ж. бат.* Ягада касцянка. *Кысьцяніцы — кіслыя ягыды. Яны пасьпіваюць увосінь.* Хвёдараўка Краснап.

КЫСЬЦЯНЦІ́Н, -а, *м.* Уласнае імя Кастусь. *Кысьцянцін Максімыў памёр учора, сяньні хувaць будуць.* Шумячы.

КЫСЯЧО́К, -чка, *м.* Маленькая шафа ў кутку для пасуды. *Пыкладзі ложкі ў кысячок.* Хвёдараўка Краснап.

КЫТАВІ́НА, -ы, *ж.* Каляіна, след ад кола на дарозе. *Едзь пы кытавіні, ні звырачывый.* Хвёдараўка Краснап.

КЫТАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Катануць, пабегчы хутка. *Ён як кытануў кумільгым, дык як мітульга зьбегыў у двору.* Куркаўшчына Мсцісл. *Давай кытанём, каб і птушка ні дыгнала.* Горкі Краснап.

КЫТАЦЦА, *дзеясл.* Катацца. *Хацеў ехыць кытацца, ды дождж пашоў.* Арцёмаўка Міласл.

КЫТЛЯ́Р, -а, *м.* Катляр, лудзільшчык. *Кытляр пыладзіў каструлю.* Слаўнае Мсцісл.

КЫЎБАСА́, -ы, *ж.* Каўбаса. *Кыўбаса вельмі смашныя і пахніць добра.* Горня Хоцім. *Ні буду ж я купляць гэстай кыўбасы — некыя цьвілая іна.* Ушакі Чэрык.

КЫХА́НЕЦ, -нца, *м.* Каханец, палюбоўнік. *Німа маго кыханца, нешта ні прыходзіць.* Маластоўка Міласл.

КЫХА́НКА, -і, *ж.* Каханка, палюбоўніца. *Ён жа сваю жонку кінуў і цяпер з кыханкаю жывець.* Маляцічы Крыч.

КЫХА́НЫЙ, *прым.* Каханы. *Ай едзіць, едзіць Грішычка п'яны, ‖ Атчынісь, Мыланка, я твой кыханы.* З нар. песні, М. Г. 48.

КЫХЛЯ́НЫЙ, *прым.* Кафляны, зроблены з кафлі. *Кыхляныя грубка лутчы грееці, чым цыгляныя.* Канічы Касцюк.

КЫХТА́Н, -а, *м.* Каптан. *Надзень кыхтан, бо ў ваднэй рубашкі будзіць сідрава.* Залачова Мсцісл. *Ты, кумычык, мыладзенькі, ‖ У цябе кыхтан зіляненькі.* З нар. песні, М. Г. 5.

КЫЦЯ́РЫНА, -ы, *ж.* Уласнае імя Кацярына. *Кыцярына хусту паціpала, дык як зынясе на ўсё поля — як па мёртвыму ўсё роўна.* Дзеражна Касцюк.

КЫЧА́ЛКА, -і, *ж.* Качалка, прылада качаць бялізну. *Пыдай кычалкі, нада пыкычаць плацьця — у лазьню зьбіраюцца іціць.* Бяседавічы Хоцім.

КЫЧАНО́К, -нка, *м. бат.* Барвенак. *Ны магілу пысадзіла кычанкоў.* Палуж Краснап.

КЫЧА́НЫЙ, *прым.* Качаны. *Хвартух ужо можна пыдпірязывыць, ён ужо кычаный.* Бяседавічы Хоцім.

КЫЧА́НЬНЯ, -я, *н.* Качанне (бялізны). *Што ета за кычаньня, абы кычалкый пывадзіла, ты кычай памоцну — добря прыцісьні.* Бяседавічы Хоцім.

КЫЧАРЭ́ЖКА, -і, *ж.* Качарэжка, качарга. *Вазьмі кычарэжку ды выкаці вугыль з печы, закурыць нада.* Татаршчына Мсцісл.

КЫЧАРЭ́ЖНІК, -а, *м.* Качарэжнік. *Пыстаў вілкі ў кычарэжнік.* Бабінкі Раснян. *Чыпіла стаіць у кычарэжніку.* Белы Мох Мсцісл. *Пыдай мне з кычарэжніка чыпялу.* Бяседавічы Хоцім.

КЫЧА́ЦЦА, *дзеясл.* Качацца. *Дос табе ўжу на полку кычацца, устывай, нада ны работу іціць.* Арцёмаўка Міласл. *Ідзе ж ты плацьця абляпіла? Глядзі што пы траве кычалыся нейдзе.* Пірагова Мсцісл.

КЫЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Качаць. *Чаго ты сядзіш? Вазьмі кычалку ды плацьця кычай — у лазьню ж нада ісьціць.* Бяседавічы Хоцім. *Ды на моры плацьця праць, ‖ На лесі вешыць, ‖ Ды на ліпі кычаць.* З нар. песні, М. Г. 78.

КЫШ, *выкл.* Кыш (пры адганянні курэй). *А кыш-кыш-кыш! Штоб ны вас кыршак, штоб ны вас!* Старае Сяло Мсцісл.

КЫША́РА, -ы, *ж.* 1. Загародка ў полі для стаянкі кароў у поўдзень. *Ета кышара мала каровым, ім цесна. Нада прівезьць жэрдзя ды зьдзелыць болі, ато ім жарка і цесна, порцяць адна другую, і пыдаіць нільзя.* Арцёмаўка Міласл. *Там была кышара — каровы на полі стыялі.* Хвёдараўка Краснап. 2. Вялікі плецены кош. *Поўныю кышару бульбы прывёз.* Там жа.

КЫША́ЧА МЯТА, *бат.* Смярдзючая трава. *Кышача мята расьцець ны градах, дужа ваніць, яе нават сьвіньні ні ядуць.* Пірагова Мсцісл.

КЫШЛА́ТЫЙ, *прым.* Кашлаты, з нячэ-

санымі валасамі. *Што ты ходзіш кышлатый, ік быран? Хуць ба прігладзіў сваі кучмы.* Палуж Краснап.

КЫШЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Кашляць. *Дывялося мне зыстудзіць ногі, цяпер во кышляю і кышляю бісьпірістанку.* Слаўнае Мсцісл.

КЫШЧА́ВЫЙ, *прым.* Кашчавы, касцісты. *Ета ён ня то што схудаў, ён усягды такей кышчавый, косьці яго такея буйныя, усюдых тырчаць.* Арцёмаўка Міласл. *Якей ён кышчавый, страшна зірнуць.* Хвёдараўка Краснап.

# Л

ЛАБУЯ́ТНІК, -у, *м.* Ліпняк, ліпавыя палкі, з якіх знята кара. *Лабуятніку целыя куча ляжыць, нехта лык ныдраў.* Студзянец Касцюк.

ЛАБЫ́Р, -а, *м.* 1. Лабок, высокае месца. *На том лабыру нічога ні расьцець, хуць сей, хуць ня сей.* Краснаруčча Раснян. 2. Кавалкі засохлай зямлі. *Там пахыта засохла, дык адны лабырі, што й бырына ні бярэць — скырадзіў целый дзень, і знаку німа.* Студзянец Касцюк.

ЛА́ВА, -ы, *ж.* Лава, дошка для сядзення, спання. *Пысьцялі сабе ны лаві, на ложы дзядзька будзіць спаць.* Палуж Краснап.

ЛА́ВЫШНІК, -а, *м.* Крамнік, прадавец. *Лавашнік прыдаець тывар у лаўцы.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ЛАВЕ́Ц, лыўца́, *м.* 1. Мыслівец [паляўнічы]. *На лыўца і зверь бяжыць.* Палуж Краснап. 2. Верцел, завостраная палачка, на якой пякуць сала на кастры. *Зьдзелый-ка там зы адно і мне лавец, нада зжарыць сала ды пыабедаць.* Бяседавічы Хоцім. *Ідзі-ка атреж лаўцы ды будзем печ сала.* Касцюковічы.

ЛАВІ́ЦЬ, *дзеясл.* Лавіць. *Ці ныладзілі вы волак, нада іціць рыбу лавіць.* Чыгрынаўка Раснян. *Ён узяў ды пашоў, а ты шукай яго — лаві ветра ў полі.* Камароўка Крыч.

ЛА́ВЫЧКА, -і, *ж.* Лавачка, падножка ў возе. *Сей і ногі зьвесіў ны лавычку.* Хвёдараўка Краснап. *Ставы зьбіты лавычкымі. Іх тры — дзьве ставы трымаюць, а на адной сідзяць.* Парадзіна Мсцісл.

ЛА́ВЫЧНІК, -а, *м.* Крамнік, прадавец. *На етыя мэтры вялікі абмер лавычнікі дзелыюць.* Мсціслаў.

ЛА́ВЫШНІК, -а, *м.* Крамнік, прадавец. *Лавышнік адшаркнуў ад целыя трубкі кывалык мацерыі.* Слаўнае Мсцісл. *Абы дзе, абы купіў, хуць у кыпіраціві, хуць у лавышніка.* Мсціслаў.

ЛАГВО́, -а, *н.* Логава, бярлога. *У лесі знайшлі вайчынае лагво.* Палуж Краснап.

ЛАГО́ДНА, *прысл.* Лагодна, ласкава. *«Ніхай будзіць ны тваім», — лагодна скызала жонка.* Ушакі Чэрык.

ЛАГО́ДНАСЬЦЬ, -і, *ж.* Лагоднасць, ласкавасць. *Пачыла іна суцішаць яго, і гэткая лагоднасьць чулась у яе голасі, што дзіця зарыз супакоілась.* Ушакі Чэрык.

ЛАГО́ДНІК, -а, *м.* Лагоднік, той, хто дагаджае. *Таму што быў лагоднікым разам для ўсіх, у ва ўсіх ласку заслужый.* Сохана Мсцісл.

ЛАГЧЫ́НКА, -і, *ж.* Лагчынка. *Сярёд лесу ны лагчынкі трыва па поіс, там і нажну мех.* Парадзіна Мсцісл.

ЛАД, -а, *м.* Лад. *Раньшы, праўда, усяго было: і біліська, і сварілісь, а цяпер ужу мір, лад і цішына.* Арцёмаўка Міласл.

ЛА́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Ладзіцца, наладжвацца. *Бандзіт еты стаў ладзіцца забіць мяне.* Б. Хутары Краснап.

ЛА́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* 1. Ладзіць, быць у дружбе. *Я з табою думаў ладзіць, а ты ня хочыш; ну і ні нада.* Іванаўка Хоцім. 2. Ладзіць, папраўляць. *Наш загнет рызваліўся, нада ладзіць, ато дрэнна ставіць цугуны.* Новыя Капачы Мсцісл.

ЛА́ДКА, -і, *ж.* Аладка. *Дзьве ладкі зьеў на скорую руку ды пайшоў у лес.* Негін Касцюк. *У нас сяньня ладкі, як пампушкі.* Канічы Касцюк.

ЛА́ДКІ, ла́дык, *мн. л.* Ладкі, ладушкі. *Дос табе пляскыць у ладкі — рукі пыадбіваіш.* Ушакі Чэрык.

ЛА́ДНА, *прысл.* Добра. *Гэта ж ладна, што ў яе бацька ў сваёй дзярёўні, дык паможыць, а каб ні було, тагды як?* Радзіванаўка Мсцісл. *Як пычане пець, дык аж серца заходзіцца — так ладна пяець.* Парадзіна Мсцісл. *Етый сапожнік ладна магець шыць, яму можна і добрыя боты даць шыць.* Арцёмаўка Міласл.

ЛА́ДНЫЙ, *прым.* Добры, досыць вялікі. *Ён ужу ладный хлопіц, яму ўжу пыхаць пыра, ня толькі кароў гыняць.* Арцёмаўка Міласл. *Ладныя баба, ды в абузу пусьцілысь.* Добрае Мсцісл. *Ладный ужо твой сын.* Палуж Краснап.

ЛАДО́ШЫ, -ыў, *мн. л.* Ладкі, ладушкі. *Кымісар так добря кызаў, што народ зыпляскыў у ладошы.* Трубільня Краснап.

ЛАДУ́НКА, -і, *ж.* Скрыначка, куды кладуць пістоны. *Пістоныў поўныя ладунка, а поріху мала.* Б. Хутары Краснап.

ЛАДУ́НЫК, -нка, *м.* Скрыначка, куды кладуць пістоны. *Пыкладзі пістоны ў ладуньк, і порыху лядзі, штоб хапіла.* Хвёдараўка Краснап.

ЛА́ДЫНЬ, -і, *ж.* Ладан. *Ладынь пахніць добра, калі пыкласьці яго на вугольля.* Восаў Краснап.

ЛАДЫ́ШКА, -і, *ж.* Гладышка, збанок. *Зьлі мылако ў ладышку і вынісь у каморку.* Ясень Краснап.

ЛА́ДЫШНІК, -а, *м. бат.* Мальва. *Кыла двара расьцець многа ладышніку, дзеці й зыбыўляюцца.* Хвёдараўка Краснап.

ЛАЁ́К, лайку́, *м.* Памянш. ад лой. *На нівычку гнаёк, а ны мяне — лаёк.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ЛАЖНІЦА, -ы, *ж.* Адпачывальня, спальня, пакой, дзе стаяць ложкі. *Панскыя лажніца тут была, а цяпер саўхоскыя ячэйка.* Лютня Краснап.

ЛАЖЫЦЦА, *дзеясл.* Лажыцца. *Ну і апушчэнства стала цяпер — прівядзець коні ў луг і сам лажыцца спаць.* Канічы Касцюк.

ЛАЖЫЦЬ, *дзеясл.* Класці. *Бяры яго адзадзі і лажы на пол.* Лешчынка Мсцісл.

ЛАЗА, -ы, *ж. бат.* Лаза. *Ля рэчкі расьцець лаза, там яе шмат.* Вярба Раснян. *Нарэзыў лазы, нада кош сплесьцъ — бульбу выбіраць неўвашто.* Азерцы Клім.

ЛАЗІНА, -ы, *ж.* Лазіна, лазовы дубец. *Абдзяжуліў ён яго лазінаю, пыймаўшы ў садзе, ды пусьціў.* Пірагова Мсцісл.

ЛАЗІЦЬ, *дзеясл.* Лазіць. *Задумылі атыніць сад, каб ні лазілі пы яблыкі.* Ушакі Чэрык. *Увесь дзень, як акаёмыш, лазіць па дрэвах.* Хвёдараўка Краснап.

ЛАЗОБКА, -і, *ж.* Лазобка, кадоўбчык, выдаўбленая пасудзіна, часцей ліповая. *Лазобка поўна мёду.* Юркаўка Крыч. *Соль хай будзе ў лазобцы.* Новыя Капачы Мсцісл. *Высып ты гэтую грачышку ў лазобку.* Добрае Мсцісл.

ЛАЗЬБЕНЬ, -я, *м.* 1. Кадоўба. *Поўны лазьбень мёду прыдалі.* Вербеж Чэрык. 2. Поўны, здаровы чалавек. *Піліп разьеўсь, дык зьдзелыўся лазьбень-лызьбянём.* Горкі Краснап. 3. Чалавек з высокім лобам. *І што ён упыдыбаў у етый дзеўкі? Ета ж лазьбень — лоб, як у бугыя.* Хвёдараўка Краснап.

ЛАЗЬНЯ, -і, *ж.* Лазня. *Бяры бялізну ды йдзі ў лазьню — мужчыны ўжо памыліся.* Новае Сяло Мсцісл. *Лазьня ўжо вытыпліна, ідзіце, бабы, хутчэй мыцца.* Роськаў Калінінщчына. *Сёньня мыюцца ў лазьні мужыкі.* Ганнаўка Клім. *У нашай вёсцы ня было лазьні, дык цяпер пабудувалі новыю абчэсьцьвінную.* Журбін Бялынкав.

ЛАЙНО, -а, *н.* Адна рэч бялізны. *Пы аднаму лайну, а за дзень памыеш лаён сорак.* Аршаншчына.

ЛАКЕЙСЬКІЙ, *прым.* Лёкаўскі, лакейскі. *Кінь ты сваю лакейськую звычку — пірід вышшым ны лапках стыяць.* Шумячы.

ЛАКШЫНЫ, -аў, *мн. л.* Локшыны, самаробныя макароны. *Я дужа люблю лакшыны з мылаком.* Раздзел Мсцісл. *Мама, дай мне лакшынаў зьесьці.* Ракаўшчына Раснян.

ЛАМІЦЦА, *дзеясл.* Ламацца. *Ат ветру суччa ломіцца.* Пухнава Раснян.

ЛАН, -а, *м.* Мера зямлі (тры валокі, або 90 моргаў). *У нашай вёсцы усяго тысяча лан зямлі.* Тур'я Чэрык.

ЛАНДЫШ, -а, *м. бат.* Ландыш. *Пойдзем у лес у ландышы — ужо цьвітуць!* Пірагова Мсцісл.

ЛАНКА, -і, *ж.* Сытая гладкая жанчына, таўстуха. *Во ланка етыя Матруна — мяса нырасьціла.* Хвёдараўка Краснап.

ЛАНПА, -ы, *ж.* Лямпа. *Наша ланпа чуць зеріць, верна, красіну мала налілі.* Слаўнае Мсцісл.

ЛАНТУГ, -а, *м.* Мяшок. *Лантуг прарваўся, і мука сыпліцца.* Тур'я Чэрык. *У лантугу было восім коп яблык.* Мсціслаў. *Купіў лантуг аўса — сеіць нечым, увесь скарміў коньмі.* Зоры Чэрык.

ЛАНТУХ, -а, *м.* Трыбух, жывот, страўнік. *Мяса прыдалі, толькі лантух і кішкі сабе аставілі.* Парадзіна Мсцісл. *Ні дывай ты ўжо яму есьць, ён і так набіў свой лантух, што чуць ні лопніць.* Добрае Мсцісл.

ЛАНТУХІ, -оў, *мн. л.* Унутранасці. *Карові прыбалі жывот, так што ўсі лантухі павылізьлі — іна і здохла.* Слаўнае Мсцісл.

ЛАНТУШША, -а, *н.* зборн. Лантухі, унутранасці. *Ехылі ны калёсых чыріз лес, дык усё лантушша ў сярэдзіні пыаддрэгыла.* Слаўнае Мсцісл.

ЛАНЦУГ, -а, *м.* Ланцуг. *Пыдай ланцуг, нада сыбаку прывізаць.* Бяседавічы Хоцім. *Ланцуг пырваўся ны калодзежы, і вады дыстаць неяк.* Хоцімск. *Сыбаку на прівізі нада дзіржаць, ато ён кусаіцца, ды лынцуга німа, нада купіць.* Арцёмаўка Мілася.

ЛАПА, -ы, *ж.* 1. Лапа, нага (сабакі ці ката). *У нашыга Мурзіка лапы, як у выўка, вялізныя.* Прусіна Касцюк. *Пыставілі пасытку ны выўка, дык пыпаўся сыбака лапую — яму лапу зашчапіла.* Арцёмаўка Міласл. 2. Удар па руцэ лінейкаю. *Настаўніца лінейкый дыла мне лапу за тое, што ня ведыў урока.* Хвёдараўка Краснап. 3. Камплект панажоў у кроснах. *Прівязывый к нітам лапу, пыпрабуім ткаць.* Восаў Краснап.

ЛАПАТА, -ы, *ж.* Лапата. *Без лапаты на гумне дрэнна, нечым зірна ў кучу зграэсьць.* Пухнава Раснян.

ЛАПАТАЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад лапата. *Лапатачку трэба зьмяніць на веялку, дос ужо ёю кідыць па горсьці.* Пухнава Раснян.

ЛАПАЦЬ, *дзеясл.* Лапаць, хапаць рукамі. *Ні лапый, ты тут нічога ні клаў.* Палуж Краснап.

ЛАПАЦЬ, лапця, *м.* Лапаць (абутак). *Абора пырвалысь, і лапаць спыдая з нагі.* Залесавічы Крыч. *Заківірзай пятку ў лапці.* Хвёдараўка Краснап.

ЛАПЕЗА, -ы, *ж.* Лапеза, непаваротлівы, нехлямяжы. *Ай, якей ты лапеза! Дзе павернісься, дык што-небудзь рызабьеш.* Хвёдараўка Краснап.

ЛАПЕЗНЫЙ, *прым.* Лапезны, непаваротлівы, нехлямяжы. *Лапезныя ў цябе жонка, браце, іна за што бярэцца рукамі, дык таго глядзі, што рызаб'ець, рызлымаець.* Серчыцы Краснап.

ЛАПІК, -а, *м.* Лапік, латка. *Пыкладзі мне лапік ны каленях, прыдраліс у лесі.* Пірагова Мсцісл. *Але ж кажух твой — лапік ны лапіку, нідзе месца жывога німа.* Барысавічы Клім. *Усі штаны ў лапіках.* Палуж Краснап.

ЛАПІЦЬ, *дзеясл.* Лапіць, залапліваць. *Вось сарочка пырвалыся, і лапіць некылі — сьвету ні бачу зы работыю.* Іванаўка Хоцім.

ЛАПКА, -і, *ж.* Лапка, галінка яліны. *Якія зялёныя лапкі ў ёлычкі.* Хвёдараўка Краснап. *Нада насеч лапкі і пысьцяліць там ны грязі, ато нільзя будзіць піряехыць з возум.* Бяседавічы Хоцім.

ЛАПЛІНЫЙ, *прым.* Лаплены. *Надзень ты вось етую сарочку, нічога, што іна лап-*

*ліныя, будзіць ладна.* Палуж Краснап. *Кажух хоць лапліный, а луччы греіць зы паль-то.* Балакеры Мсцісл.

ЛАПНІК, -а, *м.* Лапкі, галінкі ёлкі. *Усё пыўвыбралі лапнікым к празьніку.* Хвёдараўка Краснап.

ЛАПУ́Н, -ы, *м.* Бульбяны з мукою праснак, ляпёшка. *Лапуны сёньня смачныя.* Зарубец Крыч. *Дзеці, ныдзярыця бульбы — лапуны заўтрі сьпяку.* Ганнаўка Краснап.

ЛАПУ́ТА, -ы, *ж.* 1. Лапеза, непаваротлівы, нехлямяжы. *Ты, лапута, дзе павернісься, дык упернісься.* Хвёдараўка Краснап. 2. Абадранец, няўклюда. *Ой, Іванява жонка, дык аж глядзець гідка — ходзіць лапутыю.* Бардзіч Краснап.

ЛАПУ́ШУХНЫ, -аў, *мн. л.* Ручаняткі, рукі. *Дай мне, дзетка, лапушухны!* Куркаўшчына Мсцісл.

ЛАПУШЫ́СТЫЙ, *прым.* Лапушысты, пульхны. *Сьнег белый, лапушыстый.* Краснаполле.

ЛА́ПЫЦЬ, -пця, *м.* Лапаць. *Пыдажджы, вось толькі лапыць забырсаю ды набуюсь, тады пайдзём.* Стары Дзедзін Міласл. *Нада акрыйкам даплесьць лапыць.* Хвёдараўка Краснап.

ЛА́СА, *прысл.* Ласа, прагна. *Кошка ласа паглідаіць на віріб'я.* Бабынічы Мсцісл.

ЛАСКА, -і, *ж.* Ласка. *У ва ўсіх ласку заслужый, бо ўсім дагыджаў.* Сохана Мсцісл. *Калі ласка, дайце мне трохі паесьць.* Негін Касцюк.

ЛАСКУТО́К, -тка, *м. заал.* Падлешчык. *Я сяньні нылавіў шмат ласкуткоў.* Тур'я Чэрык.

ЛА́СКЫВА, *прысл.* Ласкава. *Глянь, як ён ласкыва паглідаіць ны цябе.* Радзівонаўка Мсцісл.

ЛА́СКЫВЫЙ, *прым.* Ласкавы. *Добрыя бацькі робяць добрый заціў дзецям ды працы, і дзеці ахотна выпыўняюць працу пы ласкывыму заціву.* Сохана Мсцісл.

ЛАСО́УКА, -і, *ж.* Ласунка. *Ат гэтай ласоўкі нічога ні схаваіш — пыстыянна ўсё лепшае паесьць.* Ушакі Чэрык.

ЛА́СТАЎКА, -і, *ж.* 1. Ластаўка. *Ластаўка зьвіла гняздо ў самым вільчыку.* Аршаншчына. *Ластыўка сядзіць на самым вільчыку і шчабечыць.* Дубеец Касцюк. 2. Ластавіца, устаўка ў сарочку пад пахамі. *Нада ўшыць ластыўкі ў сарочку.* Цівецкая Краснап.

ЛАСУ́Н, -а, *м.* Ласун, ласы. *Ой, які ты ласун: усё б табе смашнінькыя есьці, а дзе ж яго ныбрацца пыстыянна?* Залачова Мсцісл.

ЛАСУ́НЧЫК, -а, *м.* Памянш. ад ласун. *Бач, які ты ласунчык, усё табе салодзінькыя дывай.* Ушакі Чэрык.

ЛА́СЫЙ, *прым.* Ласы, прагны. *Іш, якей ты ласы на чужыя кыўбасы!* Горня Хоцім.

ЛА́СЬЦІЦЦА, *дзеясл.* Ласціцца, выяўляць ласку, лагоднасць. *Пычала іна прасіць матку ды ласьціцца — здылась-такі старая.* Ушакі Чэрык.

ЛА́ТА, -ы, *ж.* Лата, паплеціна. *Латы прібіты на крюках.* Пухнава Раснян. *Паеду сяньні ў лес па латы, нада хату крыць.* Маластоўка Краснап. *Нада зьмяніць ету лату, іна сусім згніла, зы яе ні прівяжыш — злумаіцца.* Бяседавічы Хоцім.

ЛАТА́, -ы, *ж.* Жулік. *Ходзіць етыя лата па сьвеце, надуваіць, абакульваіць людзей. Цябе, як лату, усі ведаюць.* Хвёдараўка Краснап.

ЛАТА́ЙСТВЫЦЬ, *дзеясл.* Латайстваваць, абманваць. *Дос табе латайствыць, мяне ні пыдвядзеш.* Хвёдараўка Краснап.

ЛАТА́ЦЬ, *дзеясл.* Лапіць. *Я латаю твае штаны.* Хвёдараўка Краснап.

ЛА́ТАЧКА, -і, *ж.* Місачка. *Я сваю латачку разьбіла, дык цяпер з чыгунчыка ем.* Гімбатаўка Мсцісл.

ЛА́ТАЧЫНА, -ы, *ж.* Лапік [акно] чыстай вады ў зарослым возеры. *Наша возіра саўсім травою зырасло, толькі ны самый сярэдзіне адна латачына зыстылася.* Студзянец Касцюк.

ЛА́ТКА, -і, *ж.* 1. Аладка. *Мама латык напікла.* Сапрынавічы Мсцісл. *Абжэрлася латкамі, дык вады пражэ.* Бакунавічы Чэрык. 2. Міска гліняная. *Купіла сабе латку, ато за еты час усе пабіліся і неўвошта варіва ўліць.* Мсціслаў. *Латка ўпала с паліцы і пабілыся.* Машавая Бялынкав. *Налі ў латку супу ды зыбялі мылаком ды будзеце есьць.* Касцюковічы.

ЛАТРУ́ГА, -і, *м.* Гультай, абібок. *Нешта Ясь апусьціўся зусім — басьцяіцца, як латруга — нічога ня хочыць дзелыць.* Добрае Мсцісл. *Ай, які ён латруга, ні прывядзі божа.* Палуж Краснап. *Латруга ты, скора, верна, есьць будзеш ляніцца.* Слаўнае Мсцісл.

ЛАТРЫ́ГА, -і, *м.* Латруга, гультай, абібок. *Латрыга етый і майго хлыпца зьвёў.* Палуж Краснап. *Каб добрый чылавек, ато пьяніца етый, латрыга, і той ішчэ гылаву дурыць.* Баеўка Крыч.

ЛАТРЫ́НА, -ы, *м.* Гультайка. *Латрына ты, што ты гуляіш? Ці то німа работы лі цябе, што ты бібікі б'еш?* Паўлавічы Клім.

ЛАТУ́ШКА, -і, *ж.* Памянш. ад латка. 2. *Адалжы ты мне сваё латушкі — госьці ў нас, дык не хапае ў што наліць.* Белы Мох Мсцісл. *Кулеш у латушцы за заслонкай стаіць.* Дуброўна. *Ганула касцом прынесла поўну латушку яешні с кыўбасой.* Глінь Касцюк.

ЛАТУ́ШЫ, -аў, *мн. л.* Бяздзелле, гультайства. *Дос табе латушы біць, пыра за дзела ўзяцца. Прайшлі табе латушы!* Горкі Краснап.

ЛА́ЎКА, -і, *ж.* 1. Лаўка, услон. *Садзіцеся лі стала ны лаўку!* Машавая Бялынкав. *Янка як сеў, дык лаўка й злымалыся.* Чыгрынаўка Раснян. *У куту на лаўкі сядзіць сват, а лі яго мыладэй — жаніх.* Шумячы. 2. Парта. *А восьцека твыя ручка — пад лаўкый была.* Мсціслаў.

ЛАХА́НКА, -і, *ж.* Ражка. *Цэлая лаханка вады налілася з адзежы, так прамок ны дажджы.* Залесавічы Крыч.

ЛАХЛЕ́ТКА, -і, *ж.* Кавалак паперы, пісулька. *Усю хату сваімі запісанымі лахлеткамі закідаў. На што ты етыя лахлеткі сабіраіш, і што ты ў іх тут усё пішаш?* Барысавічы Клім.

ЛАХМА́ТЫЙ, *прым.* Лахматы. *Іду я па лесі, а насустрэч мне пляцецца стары лахматы мядзьведзь.* Лешчынка Мсцісл.

ЛАХМО́ТКА, -і, *ж.* Лахмотка, кавалак якой-небудзь тканіны. *Вось ета лахмотка чысьцінькая, можна ёю зьвізаць руку.* Арцёмаўка Міласл.

ЛАХТЫДРА́Й, -я, *м.* Свавольнік. *Лахтыдрай еты, напрыказіў ды ўцёк — дзяржы драла лахтыдрая.* Хвёдараўка Краснап.

ЛАХТЫ́ТЫР, -а, *м.* Абадранец. *Ходзіць ён лахтытыр-лахтытырым, хуць ба зылапіў сабе штаны ці што.* Высокі Бор Краснап.

ЛАХУ́ДРА, -ы, *ж.* Лахудра, неахайная жанчына. *Прычашы космы свае, лахудра!* Барысавічы Клім. *Лахудра ты, ідзі прыадзеньсья хоць у сьвята.* Слаўнае Мсцісл. *Пырыспусьціць свае космы, не прычэшыцца, нічога — лахудра нейкыя!* Пірагова Мсцісл.

ЛА́ХЫЦЬ, *дзеясл.* Хадзіць, абхадзіць. *Паўсьвету аблахыў, а ўсё бяз толку, і навошта было лахыць, каб хто спрасіў?* Слаўнае Мсцісл.

ЛА́ЦІЦЬ, *дзеясл.* Лаціць, насцілаць латы на ключы. *Нада крышу лаціць, ды лат німа.* Горкі Краснап.

ЛАЦНА́ЦЬ, *дзеясл.* Дагаджаць, наравіць. *Нявестка сьвякрові лацнала, лацнала і ніяк ні магла ўлацнаць.* Малюшын Краснап.

ЛА́ЦЬВІ, *прысл.* Лёгка, добра. *Лацьві табе гываръщь ета, калі сын пасыбляець.* Палуж Краснап.

ЛА́ЦЬВІНА, -ы, *ж.* Дабро. *Лацьвіна табе есьць скаромныя ў пост, калі ў цябе сала многа, а зьеж я, калі нечыга.* Слаўнае Мсцісл.

ЛАШЧО́НІЦ, -нца, *м.* Падхалім, падліза. *Ой, і лашчоніц Сярьгей — ды каго хочыш ён пыдлашчыцца.* Горкі Краснап.

ЛАШЧО́НІЦЦА, *дзеясл.* Лашчыцца (падхалімна). *Нешта ён дужа стаў лашчоніцца к табе.* Маластоўка Краснап.

ЛАШЧЫ́НА, -ы, *ж.* Лагчына. *Між гор ёсьць лашчына.* Крычаў. *У лашчыні трыва луччый расьцець, чым на высокым месьці.* Гарбавічы Касцюк. *Лашчына 'д дажджу поўна стала* (вадою). Касцюковічы.

ЛАШЧЫЦЦА, *дзеясл.* Лашчыцца. *Што гэста за сыбака такей: лашчыцца да ўсіх, а ні брэшыць?* Ушакі Чэрык.

ЛА́ЯНКА, -і, *ж.* Лаянка. *Сёньня ў Мікіты ізноў была лаянка.* Чыгрынаўка Раснян. *Абрыдла мне слухаць лаянку пьяных.* Сохана Мсцісл.

ЛА́ЯЦЦА, *дзеясл.* Лаяцца. *Перастань ты лаяцца, як табе ні брыдка?* Новае Сяло Мсцісл.

ЛА́ЯЦЬ, *дзеясл.* Лаяць. *Прычапіўсь ды мяне нейкі пьяный і дывай мяне лаяць усякімі слывамі біз дай прычыны.* Клімавічы.

ЛЕБЯДА́, -ы, *ж. бат.* Лебяда. *Лебяду ў нас бабы нарышня сеюць паміж сьвёклы, бо іна заглушаіць усякую другую сорныю траву, а саму яе лёгка палоць.* Пірагова Мсцісл.

ЛЕБЯЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Ліслівіць. *Ён у вочы лебязіць, а за вочы лаіць.* Гарбавічы Касцюк. *Не лебязі так, я цябе й так добра ведыю.* Бакунавічы Чэрык.

ЛЕ́ГЧЫ, -лежч, *дзеясл.* Легчы. *Толькі лёг ны кырваць, ні пасьпеў і воч самкнуць, а ён ужо будзіць.* Тур'я Краснап. *Лягу я атпачну трохі.* Юшкі Мсцісл.

ЛЕ́ДВА, *прысл.* Ледзь. *Зымарыўся так, што ледва ногі прыцягнуў.* Сохана Мсцісл. *Якаў так ныработыўся за дзень, што ледва двору прішоў.* Гібалы Касцюк.

ЛЕДЗЬ, *прысл.* Ледзь. *Кідыў, кідыў палкый, ледзь адну грушу зьбіў, і тая чарьвівыя.* Затоны Раснян. *Ой, як я змарылыся сёньня, проста ледзь ногі цігаю.* Маляцічы Крыч.

ЛЕ́ДЗЬВІ, *прысл.* Ледзь. *Ныбраў ахапку саломы, вялікую — ледзьві рукі сышчапіў.* Старае Сяло Мсцісл. *Учапіўсь у валосьсі, ледзьві вырваўсь.* Парадзіна Мсцісл.

ЛЕ́ЖЫНЬ, ле́жня, *м.* Лежабок, гультай. *Як быў лежнім, так і зыстаўсь такім.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЕ́ЗЬЦІ, лезьць, *дзеясл.* Лезці. *Я йшчэ ня купаўсь сёліта: ніяк ні адважусь лезьці ў ваду.* Мсціслаў. *У лесьніцы пріступычка верхнія злумалысь, нільзя цяпер па ёй лезьць ны гару.* Арцёмаўка Міласл. *Лезь ны асець, а я буду кідаць снапы.* Парадзіна Мсцісл.

ЛЕ́ЙКА, -і, *ж.* Лейка. *Прынясі лейку, трэба наліць красіну ў лямпу.* Мацутаўка Раснян. *Дарка пералівала ў пляшкі алей бяз лейкі ды разьліла.* Гібалы Касцюк.

ЛЕ́ІЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад лейка. *Ідзе дзелыся наша леічка, трэба ўліць красіру.* Лешчанка Мсцісл.

ЛЕМЯГІ́, -гоў, *мн. л.* Бярвенні, якімі наглуха закладваюць з аднаго ці абодвух бакоў шчыты [зашчыткі] у будынку. *Будзім пуню рабіць у лімягі з франтоным.* Брылёўка Краснап.

ЛЕНАВА́ЦЦА, *дзеясл.* Ленавацца. *Нешта ты стаў дужа ленавацца, што йта з табой стала.* Палуж Краснап.

ЛЕНЬ, -і, *ж.* Лень, гультайства. *Тыкая ны мяне лень ныпала — ні хачу нічога дзелаць.* Пірагова Мсцісл.

ЛЕ́ПЕЙ, *прысл.* Лепей. *Я свайму мужыку скажу, ніхай лепей валёнак на гылаву надзене, чым маркелку гэтую.* Барысавічы Клім.

ЛЕПШ, *прысл.* Лепш, лепей. *Лепш адыйці, чым чыпацца з дурнім.* Лешчынка Мсцісл. *Лепш памерці, чым з ёю жыць.* Вітрунь Касцюк.

ЛЕ́ПШЫЙ, *прым.* Лепшы. *Самый лепшый грыб — быравік.* Пірагова Мсцісл. *Пойдзім у гэсты калодзіш зы вадой — тут выда лепшыя.* Ушакі Чэрык.

ЛЕ́ПШЫЦЬ, *дзеясл.* Лепшаць, рабіцца лепшым, зажываць. *Мыя рана з учырашніга дня пачыла лепшыць.* Лешчынка Мсцісл.

ЛЕ́РА, -ы, *ж.* Ліра, музычны інструмент. *На бызары дзед на леры йграя.* Мсціслаў.

ЛЕС, -у, *м.* Лес. *Лес рубяць, аж тыпары зьвіняць.* Мацутаўка Раснян. *У лесі многа зломў пысьля бурі.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЕСА́ВЫЙ, *прым.* Лесавы, лясны. *Ён лесавы чылавек — вырас у лесі і жывець там.* Дзеражна Касцюк.

ЛЕ́СКА, -і, *ж.* Загарада з лясковых пруткоў [арэхавых, яловых дубцоў]. *Насек вазоў пяць арэшніку, хачу абгарадзіць па-*

*лісаднік лескаю.* Сохана Мсцісл. *Наш сад абгароджын лескаю.* Дубеец Касцюк. *Лескай абгырадзіў ўвесь сад.* Людагошч Мсцісл. *Шчытна лескуй гарод абгароджан.* Залесавічы Крыч.

ЛЕ́СНІЦА, -ы, *ж.* Драбіны. *Лесніцы ў мажары моцныя, кладзі сьмела — выдзіржаць.* Пухнава Раснян.

ЛЕ́СЬВІЦА, -ы, *ж.* Драбіны. *Каб узьлезьць ны страху, трэба прыставіць лесьвіцу, бяз лесьвіцы ня ўзьлезіш.* Палуж Краснап. *Пріставілі лесьвіцу, пы якей ён палез на крышу.* Арцёмаўка Міласл.

ЛЕ́СЬНІЦА, -ы, *ж.* Драбіны. *Прістаў лесьніцу к сьцяне і дзяржы, штоб ні ўпала, а я палезу.* Раздзел Мсцісл. *Зыстукацеў гром, як па лесьніцы.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЕ́ТА, -а, *н.* Лета. *Сістра ў госьці зыпрашая. Пішыць, штоб пріехыў на ўсё лета.* Мсціслаў. *Вісна прайшла, і ні агледзіліся, як ужо і лета ны дваре.* Дзеражна Касцюк. 2. Будучы, наступны год. *Свайго піралетка мы будзім аб'ежджваць на лета.* Барысавічы Клім.

ЛЕ́ТАСЬ, *прысл.* Летась, мінулым годам. *Летась ён скот пасьвіў, а сёліта ўжо студзент.* Радзівонаўка Мсцісл. *Пызнакомкваліся мы зь ім летась на міколу на кірмашы.* Пірагова Мсцісл.

ЛЕ́ТАШНІ, *прым.* Леташні, мінулагодні. *Патрэбен ты мне, як леташні сьнег ны градах.* Паўлавічы Клім.

ЛЕ́ТНІЙ, *прым.* 1. Летні. *Сёньні ныстыяшчый летні дзень — так цяпло.* Вербеж Чэрык. 2. Летні, цеплаваты. *Выда ў гаршку чуць летнія.* Журбін Бялынкав.

ЛЕ́ТНІНЬКІЙ, *прым.* Цёпленькі. *Абдай дзіцёнка летнінькый вадой.* Палуж Краснап.

ЛЕ́ТЫМ, *прысл.* Улетку. *Белая кохта прігадзіцца летым.* Немеркі Раснян. *Усе дні ў камлёці ходзіць, хоць і летым.* Касцюшкавічы Крыч.

ЛЕ́ТЫСЬ, *прысл.* Летась. *Летысь быў добрый урыджай.* Хоцімск. *Во мой злосьнік пашоў, якей летысь пыдпаліў гумно з дабром.* Лешчынка Мсцісл.

ЛЕ́ТЫШЫК, -шка, *м.* Жарабя ці цяля аднаго года. *Етый жырабёнык — летышык.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЕ́ЦІ, -яў, *мн. л.* Леты, гады. *Ты сваёй нароўкай мае леці кырычаеш.* Краснаполле.

ЛЕЧ, лежч, *дзеясл.* Легчы. *Трэба рыспрануцца і леч спаць.* Гусарка Клім.

ЛЕШЧ, -а, *м. заал.* Лешч, рыба. *Я сёньня злавіў лішча, во, брат, ета лешч! Хунтыў восім будзіць.* Каробчына Мсцісл.

ЛЁД, -у, *м.* Лёд. *Ны ряке лёд ужу крепкій, можна на кыньках кытацца — ні праломіцца.* Стары Дзедзін Міласл. *Ён жа такей скупірдзя, што на кыляды лёду ў яго ня выпрасіш.* Вітрунь Касцюк.

ЛЁЗНЫЙ, *прым.* Свабодны, нічым не заняты. *Як ты чылавек лёзный — прыізжай к нам у госьці часьцей.* Юркаўка Крыч.

ЛЁК, -у, *м.* Лёк, расол ад селядцоў. *Усю пиліпыўку макалі хлебым лёк.* Палуж Краснап. *Наеўся лёку, аж пашоў бокам.* Вародзькава Крыч.

ЛЁКСА, -ы, *ж.* Уласнае імя Аляксандра. *Ці ведыіш ты, што Лёкса зыхварэла.* Мсціслаў.

ЛЁЛЯ, -і, *ж.* Лёля, сарочка (дзіцячае). *Ціха, дзетка, зарыз табе чысьцінькыю лёлю надзенім.* Брылёўка Клім.

ЛЁН, лёну, ільну́, *м. бат.* Лён. *Прыгожыя наша палоска лёну: уся расьцьвілася сінінькімі красычкамі.* Пірагова Мсцісл. *Сёліта зырадзіў лён — харошыя наметкі будуць.* Бяседавічы Хоцім.

ЛЁННЫЙ, *прым.* Льняны, з ільну. *Ета засьцілка лённыя, дужа добря моіцца.* Шумячы.

ЛЁС, -у, *м.* Лёс. *Такей ужо мой лёс, такоя шчасьця.* Гусарка Клім.

ЛЁСКА, -і, *ж.* Лязо, жалезка ў гэбліку. *Лёска ў рубанку ступілысь.* Брылёўка Краснап.

ЛЁСТКІ, -так, *мн. л.* Лёсткі. *І пычаў ён пыдпускаць ёй лёсткі, што іна і прыгожая вельмі, і разумныя, і добрыя тыкая, што й ні найці другой такоя.* Ушакі Чэрык.

ЛЁТАК, лётка, *м.* Ляток, дзірачкі ў вуллі, куды лётаюць пчолы. *У вульлі лёткі пыадчыняць нада, ніхай вылітаюць пчолы — зысядзеліся яны за зіму.* Юркаўка Крыч.

ЛЁТАЦЬ, *дзеясл.* Лётаць. *Плісіца лётае пы дваре.* Краснаполле. *Ластыўкі нізка лётаюць — дождж павінін быць.* Асмолавічы Мсцісл.

ЛЁТЫМ, *прысл.* Лётам, вельмі хутка. *Я ў адзін мамент, адным лётам зьбегыю, а ты мяне пыдаждджы тут.* Слаўнае Мсцісл.

ЛЁТЫНЬНЯ, -я, *н.* Лёт, лётанне. *Дзе ты ўсё лётыіш? Работы столькі, а табе лётыньня на ўме.* Трубільня Краснап.

ЛЁТЫЦЬ, *дзеясл.* Лётаць. *Коршык лётыя, глядзі, штоб пісклят ні пыдцапіў.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЁХКА, *прысл.* Лёгка. *Гнілоя дрэва крохка і лёхка лумаіцца, яго ні сагнеш.* Арцёмаўка Міласл.

ЛЁХКІЙ, *прым.* Лёгкі. *Лёхкі кажух у мяне ёсьць, аддам краўцу сукном пыцягнуць і будзіць добрыя пывалочка.* Барысавічы Клім. *Лёхкій твой плуг, дык і пыхаць ім добра, а мой дык цяжкій — ні пыдняць.* Бяседавічы Хоцім.

ЛІ, *прыназ.* Каля, ля. *Лапата стаіць лі дзьвярей.* Лешчынка Мсцісл. *Бабы сышлісь лі калодзіжа і стыяць-зюкаюць нешта.* Лапаціна Мсцісл.

ЛІВАЛЬВЕ́РТ, -а, *м.* Рэвальвер. *Куля зь лівальверту прыйшла сьцяну наскрозь.* Бяседавічы Хоцім. *У майго бацькі быў лівальверт, дык нехта данёс, і міліцыя зыбрала.* Горня Хоцім.

ЛІ́ВЕНЬ, -я і ліўня, *м.* Лівень, вялікі дождж, лея. *Лівень прайшоў, дык усё паплыло — картошку зь зямлі павымыла.* Хоцімск.

ЛІГЧА́НЫЙ, *прым.* Лягчаны, кастрыраваны. *Што ета за ліха, лігчаный кыбан, а за сьвінінімі бегаіць, нутрэц ці якоя ліха?* Тур'я Чэрык.

ЛІГЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Лягчаць, кастрыраваць. *Калі вы будзеце сваіх кыбанчыкаў лігчаць?* Стары Дзедзін Міласл.

ЛІДА́ІК, -а, *м.* Позыў да ванітавання. *А каб табе лідаік хваціў!* Тур'я Чэрык.

ЛІДАХО́Д, -у, *м.* Ледаход. *Вясною ў самый лідаход зьнясло етый мост.* Бяседавічы Хоцім.

ЛІДА́ШНА, *прысл.* Моташна (адчуванне ташнаты). *Ён, знаць, угарэў, у яго гы-*

*лыва баліць і лідашна яму. Ніхай ба ўжу вырвала яго, дык ба, можа, лягчэй стала.* Арцёмаўка Міласл. *Мне на серцы лідашна.* Горкі Краснап.

ЛІДА́ШТА, *прысл.* Лідашна, моташна. *Нешта мне стала лідашта, каб ні вырваць хоць.* Мацутаўка Расням.

ЛІЖА́К, -а, *м.* 1. Ляжак, дымаход на гары. *Верна, ліжак зываліўся ны гарэ, штэ дым круціць у печы.* Слаўнае Мсцісл. 2. Тоўстае бервяно, на якое кладуцца дошкі падлогі. *Ліжак асеў, і мост скрывіўсь.* Бяседавічы Хоцім. 3. Падаконнік. *На ліжаку было сала, дык, мабыць, кошка сьцягнула, німа.* Іванаўка Хоцім.

ЛІ́ЖАНКА, -і, *ж.* Ляжанка, прыпек, запечак. *Наш дзед заўсёда сьпіць на ліжанкі.* Кокатава Мсцісл. *Баба сядзіць на ліжанкі і грэіць сваё плечы пры печкі.* Шумячы.

ЛІЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Ляжаць. *Пыдай мне рукавіцы — там на гзымсі ліжаць.* Ушакі Чэрык. *Зы дзярэўняй знайшлі чылавека адубелыга, ны сьнягу ліжаў.* Лешчынка Мсцісл. *Кніжкі ліжаць ны паліцы.* Баеўка Крыч.

ЛІЖА́ЧЫЙ, *прым.* Ляжачы. *Пад ліжачый камінь выда ні цякець.* Аляксандраўка Краснап. *Бярозка — ліжачыя красычка; уецца, уецца ўсьцяж пы зямле.* Пірагова Мсцісл.

ЛІЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Лізаць. *Ні нада лізаць чарніла ізыком, ета ж уредна.* Шарэйкі Касцюк. *Кот сьмітану ліжыць — прыгані яго.* Гарманава Мсцісл.

ЛІЗНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Лізнуць. *Пыглядзеў — нешта ліпкае, лізнуў — салодкыя, знаць, мёд нехта праліў.* Прусіна Касцюк.

ЛІЗУ́Н, -а, *м.* Ласун, лізун. *Ой, і лізун у цябе Мішка, ні дай бог: усё яму салодзінькыя пыдай!* Зоры Чэрык.

ЛІК, -у, *м.* Лік. *Пыдажджы, ні мішай: я з ліку зьбіўся.* Іванаўка Хоцім. *Бярець бяз ліку і бяз меры, а калі аддасьць — нівeдыма.* Маляцічы. *Дзесіць соцін—якей будзіць лік?* Бяседавічы Хоцім.

ЛІКА́РСТВА, -а, *н.* Лякарства. *Нада нысыбіраць у маі месіцы ўсякыга зельля для лікарства.* Слаўнае Мсцісл.

ЛІЛЕ́Я, -і, *ж. бат.* Лілея. *Якая ж прыгожыя кветка лілея; ны нашай жа рацэ тож растуць лілеі.* Ушакі Чэрык.

ЛІМЯГІ́, -гоў, *мн. л.* Лемягі, бярвенні, што кладуцца паверх шул у гумне. *Лімягі кладуцца на шулы, а на лімягі кладуць ключы адным канцом, а другім — на кладзь, во і ўснова крышы.* Хвёдараўка Краснап.

ЛІН, -а, *м. заал.* Лін. *Лін любіць стычую ваду.* Паўлавічы Клім. *Я пыймаў сяньні ліна і пяць кялбоў ды йшчэ адну аўдотку.* Куравічы Мсцісл.

ЛІНА́, -ы, *ж.* Лянота. *Ліна была ўстываць дужа рана, а прыйшлось.* Палуж Краснап. *Ліна нейкыя ныпала ны мяне: рабіць нічога ня хочыцца.* Парадзіна Мсцісл.

ЛІНАВА́НЫЙ, *прым.* Лінееньі. *Як паедзіш у горыд, купі мне лінаваныя паперы два аркушы.* Пухнава Расням.

ЛІНАВА́ЦЬ, *дзеясл.* Лінеіць. *Нада лінаваць сшытак.* Шарэйкі Касцюк.

ЛІНЕ́ЙКА, -і, *ж.* Лінейка. *Дай мне сваё лінейкі палінеіць сшытык.* Шарэйкі Касцюк.

ЛІНЕ́ІЦЬ, *дзеясл.* Лінеіць. *Во етый край лучыны роўный, па ім можна лінеіць бумагу, як па лінейкі.* Арцёмаўка Міласл.

ЛІНЁВІШЧА, -а, *н.* Зьлінялая скура вужа ці гадзюкі. *Я спужаўсь: думыў, што гадзюка, а ета толькі лінёвішча ляжыць.* Высокі Бор Краснап.

ЛІ́НУЦЬ, *дзеясл.* Лінуць. *Надышла маленькыя былачынка, а як лінуў дождж, дык як зь вёдра.* Хоцімск. *Лінуў ны мяне, дык абліў усяго.* Зоры Чэрык.

ЛІНЯ́, -і, *ж.* Ліна, вяроўка ў пароме. *Бярыцесь усі за ліню, ато паром стаіць.* Ушакі Чэрык.

ЛІ́ПА, -ы, *ж. бат.* Ліпа. *Ветрым ліпу пылымала, нада аблупіць кару ны лапці.* Паўлавічы Клім.

ЛІ́ПАВЫЙ, *прым.* Ліповы. *Ліпавы цьвет зьбіраюць і сушуць ны чай ат прастуды.* Пірагова Мсцісл.

ЛІ́ПЕНЬ, -я, *м.* Ліпень, сёмы месяц у годзе. *Першыга ліпеня нас распусьцяць ны канікулы.* Мсціслаў.

ЛІПЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Ліпець, ледзь трымацца. *Яго жупан чуць ліпіць, зычапі, дык і рызарвеш. Стріха старыя, чуць ліпіць, яе вецір во-во зьнясець.* Слаўнае Мсцісл.

ЛІ́ПНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Ліпнуць. *Смыла к рукам ліпнець, а пысьля нільзя атмыць будзіць.* Дзеражна Касцюк. 2. Прыставаць. *Дос табе ліпнуць ка мне! Ныдаеў ты мне, як редзька.* Арцёмаўка Міласл. *Дзеўкі к яму ліпнуць, як мухі на мёд.* Бяседавічы Хоцім.

ЛІПУ́ЧЫЙ, *прым.* 1. Ліпучы. *Клей дужа ліпучый.* Краснаполле. *Купі ты ліпучыя бумагі ат мух, ато рызьвялося іх стольк̇і, што біда.* Маляцічы Крыч. 2. Заразны. *Ні хадзі к яму, хвароба гэта вельмі ліпучыя — зыхварэіш і ты.* Ушакі Чэрык.

ЛІС, -а, *м.* Ліс, лісіца. *Сяньні сыбакі ліса гынялі — чуць ні спыймалі, ды ўцёк, каб ны яго ліха.* Азерцы Клім.

ЛІСА́, -ы, *ж.* 1. Ліса, самка ліса, лісіца. *Ліса пывадзілась хадзіць, нада атруты пылажыць, можа зьесьць, дык здохніць.* Журбін Бялынкав. 2. Ліса, маленькія санкі, падсанкі. *Пылажы бервяно на лісу.* Тур'я Чэрык.

ЛІСАВЕ́ТА, -ы, *ж.* Уласнае імя Альжбета. *Вазьмі, Лісавета, скацірку і зысьцялі стол.* Новыя Капачы Мсцісл.

ЛІСА́ВЫЙ, *прым.* Ліслівы. *Янка лісавы чылавек: у вочы такей добрый, а за вочы гад-гадым.* Цітаўка Росл.

ЛІСАВЫ́Й, *прым.* Лесавы, лясны. *Лісавый шчавіль можна есьць, ён смашный.* Хвёдараўка Краснап. *Кіслый, як лісавоя яблыка.* Вітрунь Касцюк.

ЛІСАПЕ́ДА, -ы, *ж.* Веласіпед. *Прыехыў ён ны лісапедзе, прівёз нейкую клумачку.* Пірагова Мсцісл. *У нашыга ныстаўніка ёсьць лісапеда.* Барысавічы Клім.

ЛІСА́ЎКА, -і, *ж.* Лесавое яблыка. *Сяньні хадзіў у лес, ныэьбіраў торбу лісавык.* Хвёдараўка Краснап.

ЛІСІ́ЦА, -ы, *ж.* 1. Лісіца. *У вочы, як лісіца льсьціць, а зачы што ён кажыць?* Горня Хоцім. 2. Чурбак, што кладзецца на падсанкі пад бервяно. *Пупраў луччы лісіцу, ато бірьвяно зваліцца з пыдсанык.* Бяседавічы Хоцім. *Лісіцу нада бярозывую*

*дзелыць, штоб ні рыздавілась ат тоўсты-га бервіна.* Крычаў.

ЛІСІЦЫН, *прым.* Лісіны. *У лясу ёсьць лісіцына пячура.* Слаўнае Мсцісл.

ЛІСІЧКА, -і, *ж. бат.* Грыб, лісічка. *Лісічкі — жоўтага цьвету грыбы з кудравымі беражкамі.* Пірагова Мсцісл. *Тадора хадзіла ў грібы — знышшла лісічык ды сураве-жык, а больш нічога німа.* Гібалы Касцюк.

ЛІСКАЧ, -а, *м.* Пляскач, удар. *Ліскачоў ныдаю табе.* Горкі Краснап.

ЛІСКЫТАЦЬ, *дзеясл.* Ляскаць. *Ета ўжо такі бряхлівый чылавек, абы што яму ліскытаць языком.* Слаўнае Мсцісл.

ЛІСТ, -а, *м.* 1. Ліст (на дрэве). *На дрэве ліст ужо жаўцець пачынаець — восінь ужо.* Сутокі Мсцісл. 2. Аркуш паперы. *Я купіў чатыры лісты чыстай бумагі.* Бяседавічы Хоцім.

ЛІСТОК, лісткá, *м.* Лісток. *Лісток зь дзеріва ўпаў.* Дзеражна Касцюк.

ЛІСТЫПАД, -а, *м.* 1. Лістапад, пара, калі ападае ліст з дрэваў. *Лістыпад пычаўся: лісця падыіць з дрэваў — скора яны саўсім аголюцца.* Вярбоўка Раснян. 2. Лістапад, адзінаццаты месяц у годзе. *У лістыпадзі сьвяткуюць Кастрычнікавую рывалюцыю.* Мсціслаў.

ЛІСЬЛІВЫЙ, *прым.* Ліслівы, падліза. *Іна дужа лісьлівыя: у вочы дык і хваліць і дыбра зычыць, а адыйдзіць, і людзям усяго ныгаворіць і набрешыць ны цябе.* Арцёмаўка Міласл. *Ні люблю я його: дужа ён лісьлівый — падліза ныстыяшчыя.* Трубільня Краснап.

ЛІСЬЦІК, -а, *м.* Лісток. *Трыпутнік — ета лісьцікі, што растуць кыла дарог, іх к скулкі прыклыдаюць, штоб скарэй зыгаілысь.* Арцёмаўка Міласл.

ЛІСЬЦЕ, -я, *н. зборн.* Лісце. *Веціp з дрэў усё лісьце пазрываў — абгаліў начыста.* Пірагова Мсцісл. *У ясный дзень зыкылкі літаюць, а ў дождж хуваюцца пад лісьця дрэў.* Бяседавічы Хоцім.

ЛІСЬЦІНА, -ы, *ж.* Ліст, асобны ліст. *Буйныя лісьціна на етым дрэві.* Палуж Краснап.

ЛІТАШОК, -шка, *м.* Пералетак, пералетавалае жарабя. *Ладныя жаробка ў Якыва: літашок усяго, а іншыму пярэзімку ня ўступіць.* Мацутаўка Раснян.

ЛІТАШОЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад літашок. *Ёсьць у мяне конь, кабыла і літашочык.* Хвёдараўка Краснап.

ЛІХА, -а, *н.* Ліха, зло. *Ня зыч мне ліха — незашта!* Палуж Краснап. *А ліха ны тваю гылаву, як ты ўсюды ўлезіш, усюды нос свой уваткнеш!* Куляшоўка Краснап.

ЛІХА, *прысл.* Дрэнна. *Нешта ліха я сябе адчуваю: гылыва баліць, косьці ломіць — прыстудзіўсь я.* Шумячы.

ЛІХА, -і, *ж.* Ляха, палоска, што займаецца адным праходам пры ручной сяўбе. *Ета пылыса вузкыя, па ёй толькі два разы з сівалкыю прайціць: тут большы ня будзіць, як дзьве ляхі — адна ляха туды, а другая ныэад, і ўся пылыса.* Арцёмаўка Міласл.

ЛІХАДЗЕЙ, -я, *м.* Ліхадзей, вораг. *Ліхадзей ты майму двару, а ні прыяцільь.* Хвёдараўка Краснап.

ЛІХАЛЕЦЬЦЯ, -я, *н.* Ліхалецце. *З раду радоў ні було такога ліхалецьця, як січас.* Маластоўка Краснап. *Етыя гады ўсё ліхалецьця нейкыя — нічога ня родзіць.* Арцёмаўка Міласл. *Каб ны цябе ліхалецьця найшло!* Паходавічы Чэрык.

ЛІХВА, -ы, *ж.* Прышыты ліфчык да спадніцы. *Сістра надзела юпку з новай ліхвай.* Роськаў Калініншчына.

ЛІЦКЫВАЦЬ, *дзеясл.* 1. Пазнаваць у твар. *Чылавек пычаў ліцкываць злодзія, ні ўліцкываў.* Самацевічы Касцюк. [2. Перашываць].

ЛІЦО, -а, *н.* Твар, аблічча. *Дай мне якую фантніну накрыць ліцо ад мух.* Куркаўшчына Мсцісл. *У цябе ліцо нейкае абдулае, ці хто набіў, ці што?* Пірагова Мсцісл.

ЛІЦЦА, *дзеясл.* Ліцца. *Здаецца й нівялікая былачынка найшла, а дождж еткій льлецца.* Пірагова Мсцісл.

ЛІЦЬ, *дзеясл.* Ліць. *Ён будзе віно піць, а я буду сьлёзы ліць. Лі ваду ў выдзянку.* Прусіна Касцюк.

ЛІЦЬВІН, -а, *м.* Літвін. *Нашы заходнія суседзі — ліцьвіны.* Слаўнае Мсцісл.

ЛІЦЬВІНКА, -і, *ж.* Літвінка. *Ліцьвінка прівезла ны базар масла.* Мсціслаў.

ЛІЧБА, -ы, *ж.* 1. Лічба. *Пылядзі ты, ікая ета лічба тут стаіць — ні то чатыры, ні то сем — ніяк ні рызьбяру.* Зарубец Крыч. 2. Лік, лічэнне. *Грошы лічбу любяць.* Слаўнае Мсцісл.

ЛІЧЫЛЬНІК, -а, *м.* Той, хто лічыць. *Які зь яго яшчэ лічыльнік, ён болі як ды пяці лічыць ня ўмеіць.* Юшкі Мсцісл.

ЛІЧЫЦЬ, *дзеясл.* Лічыць. *Матка лічыла снапы і кызала, што там дзьве капы і дваццыць снапоў.* Гібалы Касцюк. *Я ні хачу лічыць цябе гультаём.* Слаўнае Мсцісл.

ЛІШКА, -і, *ж.* Лішка, лішняе. *Я рысчытаў, скольк мне нада ны зіму хлеба, а лішку думыю прыдаць ны ўсякія расходы.* Слаўнае Мсцісл.

ЛІШНІЙ, *прым.* Лішні. *Можа ў вас ёсьць лішні серп — пазычце на дзень які пыжаць.* Серчыцы Краснап. *Чаго ты прышла сюды? Ты тут саўсім лішния — і бізь цябе абойдзімся!* Бабынічы Мсцісл.

ЛІШНІЦА, -ы, *ж.* Лішніца, лішка. *Я прыдналог здаў, на семя і на емя пакінуў, а лішніцу і прыдаць можна.* Негін Касцюк.

ЛІШТАЎКА, -і, *ж.* Настаўка на пазуху ў сарочцы. *Ліштаўка ў кашулі дужа вузкыя.* Хвёдараўка Краснап.

ЛОБ, -а і ілбá, *м.* Лоб. *Дзяўчына нішто сабе, толькі лоб дужа бальшэй.* Касцюшкавічы Крыч. *Зычысалыся так, што ўвесь лоб агаліла.* Юшкі Мсцісл.

ЛОВЫ, -аў, *мн. л.* Ловы, паляванне. *Сыбраліся іціць у ловы.* Брылёўка Краснап. *Тады сыбак карміць, як у ловы іціць.* Парадзіна Мсцісл.

ЛОГ, -у, *м.* Луг. *Лог вясной увесь вадой залівaець.* Сапрынавічы Мсцісл. *Я яму замутузіў, што коній у лагу пасьціваю.* Хвёдараўка Краснап. *Як будзіш ідці — будзець перве ны дарозе лог, а тады й дзярэўня.* Пірагова Мсцісл.

ЛОГЫВА, -а, *н.* Логава. *Там ваўчыныя логыва.* Хвёдараўка Краснап. *Мы ішлі пы*

*лясу і нытрапілі ны вайчыныя логыва, у ём мы ўзялі двух вувчанёнкуў.* Бяседавічы Хоцім.

ЛО́ДЫРЬ, -я, *м.* Гультай. *Лодырь ходзя па вуліцы і нічога ня дзелыць.* Іванаўка Хоцім.

ЛОДЗЬ, -і, *ж.* Маленькая лодка, човен. *На етый лодзі ня дзіва й пірікуліцца і на дно пайсьці.* Самацэвічы Касцюк.

ЛО́ЖА, -ы, *ж.* Пасцель, ложак. *Прыду двору, на белыю ложу лягу.* Мануйлы Краснап. *Зысьцялі ложу, ніхай госьці спаць кладуцца.* Машавая Бялынкав.

ЛО́ЖАК, ло́жка, *м.* Ложак. *На ложку спала дзяўчына.* Стары Дзедзін Міласл.

ЛО́ЖКА, -і, *ж.* Лыжка. *Во зварыла груцы — аж ложку ні павернiш.* Парадзіна Мсцісл. *Ні за што, ні пра што азьдзівяліў ложкый па лбу.* Слаўнае Мсцісл.

ЛО́ЖЫК, -а, *м.* Ложак. *Лі сьцяны стаіць ложык, а на ложыку спачывае дзед.* Шумячы.

ЛО́ЖЫЧКА, -і, *ж.* 1. Памянш. ад ложка. *Дай мне ложычку, чай памішаць.* Шарэйкі Касцюк. 2. Лапатачка з дзірачкамі, куды працягваюцца ніткі пры снаванні красён. *Ніткі ўдзень у ложычку і снуй, толькі глядзі ні пымыляйся.* Бяседавічы Хоцім.

ЛО́ЗІК, -а, *м.* 1. Верхалаз. *Лозік етый целый дзень па грушых ды пы яблынях лазіць.* Мануйлы Краснап. 2. Ласун. *Лозік ты! Прывык пы гырлачыкым лазіць ды вяршок зьнімаць.* Брылёўка Краснап.

ЛОЙ, -ю, *м.* Лой, тлустасць. *Нябось, як зыпряглі яго ў работу, дык весь лой зьехыў.* Бяседавічы Хоцім. *Вазьмі лою ды памаж сабе блін.* Гарбавічы Касцюк.

ЛО́КАЦЬ, ло́кця, *м.* 1. Локаць, частка рукі. *Апух у мяне локаць нешта і баліць.* Пірагова Мсцісл. 2. Локаць, мера даўжыні. *Раньшы мерылі на локці, а січас на мэтры.* Касцюковічы.

ЛОМ, -у, *м.* 1. Лом. *У мяне шмат лому, і ніхто ні падбіраець. Назьбіралі кучу лому і зыпалілі.* Цёмны Лес Раснян. 2. Боль у касцях, ламота. *Ногі быляць — лом у кысьцях, проста ні вытрываць.* Юркаўка Крыч.

ЛО́МАЦЬ, -мця, *м.* Кавалак. *Ломаць хлеба зыхапіў ды пабег скарей у поля, а варіва й ні папробывай.* Ганнаўка Клім.

ЛО́ПАЦЕНЬ, -я, *м.* Свердзел для высвідроўвання ступіц для колаў. *Зьнімі з сьцяны лопацень і пыдай сюды, нада калодку прысьвярліць.* Вялікая Буда Краснап.

ЛО́ПАЦЬ, *дзеясл.* 1. Стукаць. *Дождж па крышы лопыя. Лопні яго пы плячу.* Палуж Краснап. 2. Есці прагна. *Лопый, лопый ягыды, пакуль зыхвареў.* Лапаціна Мсцісл.

ЛО́ПНУЦЬ, *дзеясл.* Лопнуць, парвацца. *Пераманi-ка ты гету атосіну, ато яна лопніць у дарозі.* Пірагова Мсцісл. *Завірта лопнула, і аглобля атскачыла ў сторыну.* Бязводзічы Мсцісл.

ЛО́ПУХ, -у, *м. бат.* Жоўты збаначнік. *Лопух распусьціў сваё булдовычкі пы вадзе.* Хвёдараўка Краснап.

ЛО́ПЫЦІНЬ, -я, *м.* 1. Свердзел для высвідроўвання ступіц для колаў. *Пулумаў я свой лопыцінь, свярдліўшы каток.* Хвёдараўка Краснап. 2. Лапатун, чалавек, што шмат говорыць. *Лопыцінь ты! Табе толькі ізыком малоць, а дзела дзелаць — рукі ні бяруць.* Слаўнае Мсцісл. 3. Абжора. *Во лопыцінь, злопаў усё і йшчэ яму мала.* Хвёдараўка Краснап.

ЛО́ПЫЦЦА, *дзеясл.* Лопацца. *Ну й жадный ты, ад завідзі аж лопыісься.* Горкі Краснап.

ЛО́СКА, *прысл.* Гладка, глянцавіта. *Жонка сарочку лоска выкычыла.* Палуж Краснап.

ЛО́СКАТ, -у, *м.* 1. Лоскат, шум, ласкатанне. *Зымаўчыця вы, а то гылыва разьлігаіцца ат вашыга крыку-лоскыту.* Зубаўка Раснян. 2. Покат, рад, павал. *Хлопцы барыліся са мною, дык я іх у лоскыт пылажыў.* Палуж Краснап.

ЛО́СКЫМ, *прысл.* [Покатам], упокат. *Ляжыць лоскым, ніяк ні атчухыіцца пысьля ўчыряшніга паходу.* Краснаполле.

ЛО́СКЫТЫМ, *прысл.* Покатам [упокат]. *Хлопцы лоскытым ліжаць пысьля вічарыны.* Палуж Краснап.

ЛО́ТА, -ы, *ж.* Лот, аптэчная мерка вагі. *Купі ты лоту чэрні і пыкрась еты андрак, дык ён будзець прыгажэйшы.* Прыпёчына Калініншчына.

ЛО́ТАК, -а, *м.* Латок, жалабок. *Калі крыіш хату дорым, дык трэба лотык рабіць для стоку вады.* Хвёдараўка Краснап.

ЛО́ТАЦЬ, -і, *ж. бат.* Лотаць, балотная расліна. *У балотых, як толькі сьнег зьлезіць і сонца прыгреіць, так лотыць і зацьвітаець.* Буліна Калінінішчына. *У балоці многа расьцець лотаці.* Хвёдараўка Краснап.

ЛО́ТКА, -і, *ж.* Лодка, човен. *Па рэчкі лотка, і ў ёй сядзелі два чылавек.* Арцёмаўка Міласл.

ЛО́ТРА, -ы, *м.* і *ж.* Гультай, латруга. *Калі будзіш лотра, дык і жраць нечыга будзіць.* Гібалы Касцюк. *Во ўжо лотра — ляніцца і ногі пыцягнуць.* Слаўнае Мсцісл.

ЛО́Ў, ло́ву, *м.* Паляванне. *Як у лоў ехыць, дык і сыбак карміць.* Парадзіна Мсцісл.

ЛО́ЎЖ, -а, *м.* Лоўж, куча галля. *Гальлё і суччa пысьцігалі ў лоўж і зыпалілі.* Азерцы Клім. *Лоўж-курганы так завуцца ат таго, што людзей клалі ў лож ды прысыпалі зямлёй.* Гарадзец Бабр.

ЛО́ЎКА, *прысл.* Спрытна, прыгожа. *Кажух твой лоўка пашыт.* Парадзіна Мсцісл. *Лоўка мы ўсё ета зьдзелылі.* Мсціслаў.

ЛО́ШЧЫЦЬ, *дзеясл.* Наводзіць лоск. *Мітрюхан сваю кабылку лошчыць, іна ў яго ажно блішчыць.* Лютня Краснап.

ЛУБ, -у, *м.* Луб. *Пырцянкі ад поту і гразі ў луб злубелі.* Парадзіна Мсцісл.

ЛУБА́ЦІНА, -ы, *ж.* Лабаціна, вялікі лоб. *У Мяхвода лубаціна тыкая, што шапкі ні пыдбярець — усі малыя.* Цівецкая Краснап.

ЛУБА́Ч, -а, *м.* Чалавек з вялікім лобам. *Сын твой — лубач, у яго лоб ні такі, як у цябе, малы.* Хвёдараўка Краснап.

ЛУ́БІН, -у, *м. бат.* Лубін. *Лубін добра ўдабраець зямлю, калі яго скасіць зялёным ды зыараць.* Пірагова Мсцісл. *Раньшы ў нас лубіну ня сеілі — ні зналі нават, і які ета лубін.* Шумячы.

ЛУ́БКА, -і, *ж.* Лубка. *Пылажы яйцы ў лубку ды перасып мякінаю, штоб ні пабіліся.*

Парадзіна Мсцісл. *Бацька ўзяў лубку і пашоў сеяць.* Людагошч Мсцісл. *Насып у лубку жыта.* Юркаўка Крыч.

ЛУБУЯТНІК, -а, *м.* Ліпавыя палкі, з якіх абадрана кара. *Ускінь на печ лубуятнік, ніхай падсохніць, а потым спаліце.* Хвёдараўка Краснап. *Мы спалілі ўвесь лубуятнік.* Варанёва Крыч.

ЛУГ, -а, *м.* 1. Луг [сенажаць]. *Луг разьбілі кынавымі ны кватэркі.* Гібалы Касцюк. *Мы былі сяньні на лузе і нырвалі красык.* Юравічы Клім. 2. Луг, адвар з попелу. *Зрабіла лугу, нада бялізну памыць — шмат ужо сыбралыся.* Мацутаўка Расняп.

ЛУЖА, -ы, *ж.* Лужа, яма з вадою. *Аб'іжджай гэту лужу, ато калёсы затопіш.* Пірагова Мсцісл.

ЛУЗГА, -і, *ж.* Лузга. *Нада етый квасоль пылузгаць і лузгу выкінуць.* Арцёмаўка Міласл.

ЛУЗГАЦЬ, *дзеясл.* Лузгаць. *Насыпыла семя повін хвартух і лузгаіць седзячы.* Арцёмаўка Міласл.

ЛУЗКАН, -а, *м.* Тлусты чалавек. *Во пайшоў лузкан, дык лузкан, як кыбан кормный усё роўна.* Хвёдараўка Краснап.

ЛУКУТА, -ы, *ж.* Уласнае імя Луцэя. *Ету бабу завуць Лукутый.* Горкі Краснап.

ЛУПАНЫ, -оў, *мн. л.* Бульбяная каша, камякі. *Ну ды і смашныя сёньня лупаны ты зварыла!* Мсціслаў.

ЛУПІЦЬ, *дзеясл.* 1. Лупіць, чысціць вараную бульбу. *Усі печаныя кардохлі паелі, ды хоць бы шулупаху ў адно месца пыклалі, ато лупілі і пы ўсяму масту накідалі.* Арцёмаўка Міласл. 2. Біць. *Лупі яго пы чым пыпала.* Іванаўка Хоцім.

ЛУПУНЫ, -оў, *мн. л.* Ляпёшкі з мукі і варанай тоўчанай бульбы. *Мы сяньні лупуны пяклі, дык пакуль ета зварілі кардохыль, ды пулупілі іх, ды пытаўклі з мукою, дык к абеду толькі ў печ пысадзілі.* Арцёмаўка Міласл.

ЛУПЦОЎКА, -і, *ж.* Лупцоўка, біццё. *Пысьля лупцоўкі стаў, як шоўкавый.* Палуж Краснап. *Бувала, кылі пан што-небудзь зацеіць, дык ужу ні станіш зь ім пустуўляцца — ідзі скарей, ато будзіць лупцоўка.* Арцёмаўка Міласл.

ЛУПЫЦЫР, -а, *м.* Каруздік, карапуз. *Дзеці твае — лупыцыры. Глядзі, як твой лупыцыр паўзець ды цябе.* Хвёдараўка Краснап.

ЛУСКА, -і, *ж.* Луска. *Як узяў сілідца за хвост, так ні пачысьціўшы, із лускою і дывай есьць з гылавы.* Касцюковічы.

ЛУСКАВІЦІНЬ, -я, *м.* Мяшок, у якім адцэджваюць тварог. *Назьбірала повін лускавіцінь творыгу.* Краснаполле.

ЛУСТА, -ы, *ж.* Луста. *Атреж мне, маць, лусту хлеба.* Слаўнае Мсцісл. *Да ты не глядзі, а лепш дай лусту хлеба.* Віхраны Мсцісл.

ЛУСТЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад луста. *Я вельмі ж хачу есьць, дай хуць маленькую лустычку хлеба з маслым.* Гарманава Мсцісл.

ЛУТ, -а, *м.* 1. Сук ліпы, з якога можна зняць кару на лыкі. *Глядзі, вось на тэй ліпі добрый лут — зрубі яго, будзіць на пыўлапця лык.* Палуж Краснап. [2. Знятая кара].

ЛУТКА, -і, *ж.* Бакавы стаяк асады дзвярэй і вакон. *На лутки нада выбраць сасну з засмолым, штоб ні так скора гнілі.* Тур'я Чэрык. *Вокны нашы пагнілі, нада дзелыць новыя луткі.* Машавая Бялынкав.

ЛУХТА, -ы, *ж.* Лухта, глупства. *Ні пары ты лухты дырма, цябе ніхто ня слухыіць.* Слаўнае Мсцісл. *Ты меліш, як лухта, а праўды — ні на грош.* Добрае Мсцісл.

ЛУЦЬЦЯ, -а, *н. зборн.* Луцце, луты. *Я купіла луцьця ны лапці, ды некаму сплесьць — сама ня ўмею.* Іванаўка Хоцім. *Добрыя луцьця расьцець тута, хутка ныдзэром лык.* Палуж Краснап.

ЛУЧКА, -і, *ж.* Лучка, лука, паўвыспа, паўвостраў, зробленыя загібам ракі. *Мяжа нашыга сенакосу даходзіць ды самыя лучкі.* Гібалы Касцюк. *Пывядзём у лучку пасьціць коні.* Тур'я Чэрык.

ЛУЧОК, лучка, *м.* 1. Лучка, лука. *Мы касілі сяньні на лучку.* Барысавічы Клім. 2. Прылада да касы для збірання падрэзаных сцяблоў пры касьбе. *Нада зьдзелыць лучок — пайдзем заўтры касіць авёс.* Гарманава Мсцісл. *Пыдай мне лучок, пайду касіць грэчыху.* Бяседавічы Хоцім.

ЛУЧЧЫ, *прысл.* Лепш. *Сяньні наша красуля луччы пад'ела, дык і болі мылыка дыла.* Бяседавічы Хоцім. *Грывая пшаніца луччы за зімовыю.* Татаршчына Мсцісл. *У лашчыне трыва луччый расьцець, чым на высокім месьці.* Гарбавічы Касцюк.

ЛУЧЫНА, -ы, *ж.* Лучына. *Наськіпай, Мікола, лучыны.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ЛЫБІЛА, лібіла, -ы, *ж.* 1. Даўгавязая няўклюйная жанчына. *Лыбіла ты! Хто ны цябе пылядзіць такую!* Маластоўка Краснап. 2. Лытка. *Пасунь сваe лыбілы! Сыбакі ўсі лыбілы абырвалі.* Там жа. 3. Прыстасаванне для лоўлі ракаў. *Ракі ўчапілісь у лыбіла.* Там жа.

ЛЫГАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Лагодзіць, дагаджаць. *Яму, як хворыму, колькі ні лыгадзі, а калі раз ні пытрапіў, дык і ласку страціў.* Сохана Мсцісл.

ЛЫГАЦЬ, *дзеясл.* Хутка, спяшаючыся есці. *Як ты лыгаіш — ні пасьпець, еж палюдзку.* Брылёўка Краснап. *Лыгаіць, як сыбака, думаіць, ні пасьпеіць зьесьці, або хто адбярэць.* Баеўка Крыч.

ЛЫГНУЦЬ, *дзеясл.* Сцебануць, выцяць. *Лыгні яго па лыткых!* Хвёдараўка Краснап.

ЛЫЖА, -ы, *ж.* Лыжа. *Мой бацька зьдзелыў лыжы і кызаў навучыць мяне кувзацца.* Бяседавічы Хоцім.

ЛЫЗЬ-МЫЗЬ, *прысл.* Трохі, лізь-мазь. *Мёду аставілі толькі на лызь-мызь.* Куркаўшчына Мсцісл.

ЛЫКА, -а, *н.* Лыка, палоска ліпавай кары. *Ляжыць лыка ны дарозе, падніміі — зныдабіцца.* Журбін Бялынкав. *Лыкі тоўстыя, дык я абліпкі зьняў.* Хвёдараўка Краснап. *Змытай на клубняк лыкі, штоб ні круцілісь у трубкі.* Баеўка Крыч.

ЛЫКАЎЕЦ, -ўца, *м.* Месца ў лесе, дзе дзяруць лыкі. *Тут у лесі ёсьць лыкаўец доб-*

*рый — жыва ныдзяром лык.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЫ́КАЎКА, -і, *ж.* Ключыца. *Схудзеў, што аж лыкаўкі выперліся.* Палуж Краснап.

ЛЫМАСЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Ламасаваць, біць. *Як пычаў ён сучку лымасываць вяроўкый, дык я думаў, што заб'ець.* Усцінавічы Краснап.

ЛЫМА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Ламаць. *Увайшоў у лес і дывай лымаць суччо ды рыскладываць цяпло.* Гарбавічы Касцюк. 2. Баранаваць упоперак узаранае. *Сымон піряд сяўбой паехыў лымаць пахыту.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЫМА́ЧЧА, -а, *н. зборн.* Лом, ламачча. *Лымачча цэльный двор, і прайсьці нельга, хуць ба падыбраў ты яго троху.* Палуж Краснап.

ЛЫНТУХІ́, -оў, *мн. л.* Вантробы. *Ён пывалій яго ны зямлю і парезаў нажом усі лынтухі.* Лешчынка Мсцісл.

ЛЫНЦУЖО́К, -жка, *м.* Памянш. ад ланцуг. *Нада етыму сыбачкі на шыю лынцужок прівізаць і якую-нібудзь банічку надзець, ніхай брязгочыць.* Арцёмаўка Міласл.

ЛЫПАНО́СЫЙ, *прым.* Шырокансоы, лапаносы. *Ты дужа лыпаносый, у цябе нос, што лыпата.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЫПА́ТА, -ы, *ж.* Лапата, рыдлёўка. *Адну гряду ускыпаў, і лыпата зламілысь.* Беразяк Краснап. *Жалезныя лыпата луччы лезіць у зямлю.* Юр'евічы Клім.

ЛЫПА́ТКА, -і, *ж.* Лапатка, рыдлёўка. *Зьдзелый сабе лыпатку і кыпаіць.* Сідараўка Хоцім.

ЛЫПАТУ́ХА, -і, *ж.* 1. Лапатуха, што многа любіць гаварыць. *Слухый ты етую лыпатуху — іна табе ныскажыць.* Хвёдараўка Краснап. 2. Скрыўленне ляза касы пры няўмелым кляпанні. *Ой, надзелый лыпатух — ня ўмеіш ты кліпаць, касу спорціў.* Там жа. 3. Балабон, званок, што прывязваюць каровам на шыю. *Карова ходзіць з лыпатухый, знаць, адбіваіцца ад стада.* Там жа.

ЛЫПАЦЕ́НЬ, -я, *м.* Таўстун, сыты, поўны хлопец, непаваротлівы. *Зыставілі сьцірагчы курей, а ён сядзіць і ні відзіць, што ўсі гряды падзерлі, от лыпацень, яму пудбегчы ціжало ат сыці!* Карма-Пайкі Краснап.

ЛЫПАЦЕ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Лапацець. *Нгшта ў вуха мне ўлезла — лыпаціць там.* Гусарка Клім. 2. Бегчы вельмі хутка. *Куды ты лыпаціш з усіх ног?* Палуж Краснап.

ЛЫПАЦО́Н, -а, *м.* Сыты, поўны чалавек. *Твой хлопіц — ныстыяшчый лыпацон! І чым ты яго корміш?* Мілаславічы.

ЛЫПША́К, -а, *м. бат.* Падбярозавік, абабак. *Повін кош лыпшакоў ныбряла.* Высокі Бор Краснап.

ЛЫ́СГАБРУСЬ, *прысл.* Хоць бы што. *А яму і ні лысгабрусь, ніхай што хочуць кажуць.* Машавая Бялынкав.

ЛЫ́СІНА, -ы, *ж.* Лысіна. *Красівый у мяне быў конь, сам пылавый і лысіна на лбе.* Пірагова Мсцісл.

ЛЫ́СКА, -і, *ж.* Пралышанае месца на бервяне. *Прыгані пу бярну лыску, ды атаб'ём шнурым.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЫСКЫТА́ЦЬ, *дзеясл.* Гаварыць без толку. *Дос табе лыскытаць ужу — гаворіць ірунду, што слухыць нечыга, толькі гылаву адуріў.* Арцёмаўка Міласл.

ЛЫСТА́, -ы, *ж.* Шпар. *Шырокія ўжо дужа лыста ў бірвяне.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЫ́СЫЙ, *прым.* Лысы. *Чый ета лысый конь?* Мілаславічы. *У яго валосься лезіць, ужу скора лысый будзіць.* Зоры Чэрык.

ЛЫ́ТКА, -і, *ж.* Лытка. *Зашый штаны, ато лыткі відны.* Лешчынка Мсцісл. *Еткій мыладый, а нада так адубець, што аж лыткі калоцюцца.* Слаўнае Мсцісл.

ЛЫЎДЗІ́К, -а, *м.* Той, хто хапае ўсё, што пападзе пад руку. *Лыўдзік ты, схапіў маё долыта ды пулумаў!* Хвёдараўка Краснап.

ЛЫХМАНІ́НА, -ы, *ж.* Лыхманіна, паношаная адзежына. *Бацца ў полі забыла я сваю лыхманіну.* Тур'я Чэрык.

ЛЫЦНА́ЦЬ, *дзеясл.* Збірацца, мець намер, хацець. *Ён лыцнаець мяне пыд касьцёл падвесьці.* Дубровіцы Клім. *Лыцнаў ісьці мылацідь, ды раздумаў.* Хоцімск.

ЛЫЧА́К, -а, *м.* Кароткая вяроўка з пятлёю. *Я зьвіў два лычакі.* Брылёўка Краснап.

ЛЫ́ЧЫШНІК, -а, *м.* Лычнік, чалавек, што дзярэ лыкі на продаж. *Максім-лычышнік павёз на базар лыкі прадываць.* Дубровіцы Клім. *У нас ужо німа лычышнікаў — зьвяліся, бо лесу німа ўжо, зьнішчылі, і лык нейдзе драць.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ЛЫШАДЗЕ́НКА, -і, *ж.* Конік. *Атжыўся малысьць: купіў лышадзёнку, карову і стаў, як і ўсі людзі.* Пірагова Мсцісл.

ЛЬЛЯ́НІШЧА, -а, *н.* Льнішча, месца на полі, дзе быў пасеяны лён. *На льлянішчы можна будзіць засеяць авёс, там места пагнойнае.* Пірагова Мсцісл.

ЛЬНУЦЬ, *дзеясл.* Льнуць, прытуляцца. *К етыму Якыву дзеўкі так і льнуць — як мухі на мёд лезуць.* Журбін Бялынкав.

ЛЬНЯ́НЫЙ, *прым.* Льняны, зроблены з лёну. *Ета ж чыста льняныя пылатно і так дзешыва, нада купіць.* Бялынкавічы.

ЛЮ́БА, *прысл.* Люба, міла. *Люба глядзець, як яны ўдваіх работыюць.* Бяседавічы Хоцім. *Люба ні люба, а калі кажуць — нада дзелыць.* Меншая Багацькаўка Мсцісл. *Выбірай касу, якую хочыш, на люба.* Маластоўка Краснап.

ЛЮБЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Каханне. *Што йта сталысь зь етымі дзеўкый і хлопцым? Было такоя любеньня, што на сьвет, а січас адно аднаму ні на вочы!* Баеўка Крыч.

ЛЮБІ́МЕЦ, -мца, *м.* Любімец, той, каго любяць. *Старэйшы сын — любіміц у бацькі.* Слаўнае Мсцісл.

ЛЮ́БІНЬКІЙ, *прым.* Любенькі. *Татычка, любінькі, ня біся — ня буду болі!* Слаўнае Мсцісл. *Любынькыя ты мыя дачушычка, а калі ж я цябе спатыкаць буду?* Дубровіцы Клім.

ЛЮБІ́СТА, -а, *н.* Зелле да любошчаў. *Нада схадзіць к дзеду, каб ныгуваріў любіста: ён паддзелыіць, што будзіш любіць.* Слаўнае Мсцісл.

ЛЮБІСТО́К, -а, *м.* Любіста, зелле да любошчаў. *Хадоска дзеўкым любісток даець, штоб хлопцы любілі.* Горкі Краснап.

ЛЮБІЦЬ, *дзеясл.* Любіць, кахаць. *Волька любіць маліпькіх піскпятык.* Глінь Касцюк. *Ён любіць спаць ніцым.* Брылёўка Краснап. *Люблю праўду скызаць і ў вочы, ці зачы.* Сохана Мсцісл. *Кылі пан пріїжджаў, дык народ усягды яго неяк быламугна сустрікаў: дужа ўжо ні любілі яго.* Арцёмаўка Міласл.

ЛЮБІЦЦА, *дзеясл.* Любіцца, любіць, кахаць адно аднаго. *Яны любілісь, а пыбраціа ня прышлось.* Асмолавічы Мсцісл.

ЛЮБО́Ў, любо́ві, *ж.* Каханне. *У етый кніжкі пры любоў хлопца і дзеўкі, якея любілісь, ды ні жанілісь.* Арцёмаўка Міласл.

ЛЮБУ́НКА, -і, *ж.* Любанька. *Мамулька, любунка ты мыя родныя!* Слаўнае Мсцісл.

ЛЮ́БЫЙ, *прым.* Любы. *Любы мой, харошы, што ты злуеш ны мяне?* Зоры Чэрык. *А й жонка мне люба,* ‖ *Люба длі савету,* ‖ *А й цешча мне люба,* ‖ *Люба длі заезду.* З нар. песні, М. Г. 125.

ЛЮГАШКА, -і, *ж.* Жаба. *У балоці люгашкі квакылі.* Арцёмаўка Міласл. *Во ўжо і люгашкі ў балоці затурчэлі — ікру мечуць.* Парадзіна Мсцісл.

ЛЮ́ДЗІ, -ей, *мн. л.* Людзі. *Людзі пызыбівалі спыйманых злодзіїў да ўмору.* Ясенка Краснап. *Абміщулівыюць людзей жулікі етыя.* Паўлавічы Клім. *Ходзючы па сьвеці, часта пріходзіцца знакоміцца з харошымі і плахімі людзьмі.* Бяседавічы Хоцім.

ЛЮ́ЛЬКА, -і, *ж.* Калыска. *Пылажы дзіця ў люльку ды пыкалышы трохі — яно й засьнець.* Іванаўка Хоцім. *Пылажы Ганнучку спаць у люльку.* Юркаўка Крыч. *Дзіця спіць у люльці.* Малюшын Краснап. *У люлькі ляжыць маленькій хлыпчык Янка.* Быкавічы Мсцісл.

ЛЮ́СТРА, -а, *н.* Люстэрка. *Люстра стаіць ны сталє, падзівісь ны сябе, на што ты пахож.* Сідараўка Краснап. *У майго брата ёсьць люстра, ні шкляноя, а зялезныя — з гірманскай вайны прінёс яго.* Шумячы.

ЛЮСТЭ́РКА, -а, *н.* Люстэрка. *Пыдайка мне люстэрка, я хустку прымерыю.* Маластоўка Краснап. *Нада купіць люстэрка, ато маё разьбілысь.* Лабаноўка Хоцім.

ЛЮ́ТЫЙ, *прым.* 1. Люты, другі месяц у годзе. *Прыйшоў люты, пытаіцца, ці добра абуты; прыйшоў маріц — зымарозіў паліц.* Мілаславічы. 2. Люты, злы. *Лютый мароз сяньні: градусыў з дваццыць, пэўна, будзіць.* Зялёны Сарай Мсцісл. *Етый чылавек усё роўна, як зьверь лютый.* Гібалы Касцюк.

ЛЮХТ, -а, *м.* Душнік, прадуха ў лазні, куды выходзіць пара. *Адчыні люхт, ніхай пара найдзець.* Крычаў.

ЛЮ́ХТА, ы, *ж.* Нешта лёгкае, паветранае. *Бульба ўпіклася, як люхта.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЮ́ХЦІК, -а, *м.* Душнік. *Што стоіць люхцік у кыпіраціві? Мне нада купіць і ў комін уставіць.* Тур'я Краснап.

ЛЮ́ЦКІЙ, *прым.* Людскі, добры, як у людзей. *Ты навіт люцкай сьвіткі ні маіш — за ўвесь век ні мог здабыць.* Ушакі Чэрык.

ЛЮЦЫ́ПАР, -а, *м.* Люцыпар, чорт. *Сам люцыпар ні рызьбярэць, што тут дзелыіцца.* Дубровіцы Клім.

ЛЮЦЭ́РНА, -ы, *ж. бат.* Люцэрна. *Люцэрна ідзець на корм скату — яна ў нашай дзярэўні яшчэ рэдкая расьліна.* Пірагова Мсцісл.

ЛЯ, *прыназ.* Каля. *Ля Сожу ёсьць зілізьняк, з якога дзелылі раньшы зялеза.* Віхраны Мсцісл. *Ля пола насыпана бульба.* Бель Мсцісл.

ЛЯБІ́Х, -а, *м.* Гультай. *Ляжыць цэлый дзень лябіх етый, а пра тоя, што работа стаіць, і ні падумыя.* Барысавічы Клім.

ЛЯГУ́ШКА, -і, *ж.* Жаба. *Вясною лягушкі сквяруцца, як дзелыюць пу балотых квыктаньня.* Слаўнае Мсцісл.

ЛЯГЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Лягчаць, кастрыраваць. *Кыбанчыкаў пыра ўжо лягчаць.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЯ́ДА, -а, *н.* Ляда, расцярэбленае месца ў лесе. *Лес пасеклі, і ляда, якое стала пысьля рубкі лесу, падчысьцілі і распыхалі.* Сохана Мсцісл. *Ляда даўно ўжо засеяна.* Ракоўшчына Раснян. *Скарадзіў ляда і кляцы ў быране палумаў.* Сохана Мсцісл.

ЛЯДЗЕ́НЬ, лядня́, *м.* Лядзяк, лядзяш. *Астыг увесь чыста, рукі й ногі — як лядні.* Пірагова Мсцісл.

ЛЯДЗЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Глядзець. *Лядзі ты! Лі дарогі каліўка гароху вырысла.* Юшкавічы Раснян. *Лядзі, куды едзеш—воз пірякуліш.* Дубровіцы Клім. *Лядзі, ня ронь етыга!* Горкі Краснап.

ЛЯДО́ЎНЯ, -і, *ж.* Лядоўня. *Я ў погрыб набіў сьнегу, дык вышла тыкая слаўныя лядоўня, што чуць ні ды самыя восіні сьнег ліжаў.* Арцёмаўка Міласл.

ЛЯДО́ШНА, *прысл.* Гідка, брыдка, агідна. *Мне стала лядошна і чуць ні сырвала.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЯЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Ляжаць. *Сьпічкі ляжаць ны пяколцы.* Тэкліна Смаленшчына. *Чаго ты ляжыш на крываці, устывай, ідзі каровым дай.* Новае Сяло Мсцісл. *Кнігі ляжаць ны паліцы.* Ракаўшчына Раснян.

ЛЯЖЭ́НЬКА, -і, *ж.* Жабка. *Ляжэнька прыгыя пы дарозі.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЯЗО́, -а, *н.* Лязо, вастрыё ў сякеры, нажы. *Лязо ў тыпары вышчарбілыся, нада пайстрыць.* Хвёдараўка Краснап. *Затупілыся сусім лязо тыпыра, нада несьць у кузьню ды аттачыць.* Слаўнае Мсцісл.

ЛЯ́КІ, -ыў, *мн. л.* Перапуды, пярэпалахі. *Дзіцёнык крічыць, знаць, спужаўсь ён. Ідзі ды старой Хвядосіхі, ніхай іна лякі выкычыіць.* Трубільня Краснап.

ЛЯКСЕ́Й, -я, *м.* Уласнае імя Аляксей. *Ляксей пайгода хварэў, а цяпер адужаў.* Палуж Краснап.

ЛЯКТРЫ́ЧЫСТВА, -а, *н.* Электрычнасць. *Нельга чытаць, ляктрычыства слаба гарыць.* Мсціслаў.

ЛЯЛЕ́БІЦЬ, *дзеясл.* Песціць, даглядаць. *Матка кукобіла, лялебіла дзіцятка, а йно ўзяло ды памёрла.* Маластоўка Краснап.

ЛЯ́ЛЬКА, -і, *ж.* Лялька. *Глянь, дзетка, якая лялька харошыя!* Зоры Чэрык. *Дзеці гулялі ў лялькі.* Гібалы Касцюк. *Ей ба*

*яшчэ ў лялькі гуляць, а іна ўжо ў мяне ачоскі прядзець.* Бяседавічы Хоцім.

ЛЯМЕ́Г, -а, *м.* Бервяно, што кладзецца паверх шулаў у будынку. *Лямегі таней — пакот часьцей будзе.* Дуброўна Аршаншчына.

ЛЯМЕ́Ш, -а, *м.* Лямеш. *Трэба паналадзіць лямеш, ато затупіўсь — ні арэць.* Бязводзічы Мсцісл.

ЛЯ́МІЦ, -мца, *м.* Лямец, кавалак зваленае шэрсьці, войлак, падкладваецца пад хамут, каб мякчэй было каню у шыю. *Лміц у хумыце рыспыўзаіцца, нада новы купіць.* Хвёдараўка Краснап. *Трэба ляміц новый у хамут, ато етый працёрся і каню плечы муліць.* Бязводзічы Мсцісл. *Ляміц, ты, а ні чылавек!* Хвёдараўка Краснап.

ЛЯ́МКА, -і, *ж.* 1. Падбіўка ў нізе спадніцы. *Падшый к спадніцы лямку!* Усполле Расиян. *К юбкі я падшыла лямку.* Ельня Краснап. 2. Цяжар, цягасць. *Я ету лямку ўжо пяць гадоў нясу.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЯ́МПА, -ы, *ж.* Лямпа. *Ганка, налі ў лямпу красіну.* Гарбавічы Касцюк.

ЛЯНІ́ВЫЙ, *прым.* Лянівы. *Ой, які ты лянівый, хлопча, нічога ня хочыш дзелыць!* Міцькаўшчына Мсцісл.

ЛЯНІ́ЦЦА, *дзеясл.* Ленавацца. *Вось гультай: ляніцца пыдняцца і зь места сыйсьці.* Арцёмаўка Мілаcл.

ЛЯ́НУЦЬ, *дзеясл.* Глянуць. *Лянуў я ны яго і жахнуўся: стаіць белы, як пылатно, і кравінкі німа.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЯНЬЛІ́ВЫЙ, *прым.* Лянівы. *У каго ты ўрядзіўсь такей ляньлівый? Ты ж нічога ні зьдзелыў за цельный дзень.* Мануйлы Краснап.

ЛЯ́ПА, -ы, *ж.* Пашча, ляпа. *І што ты рыззявіў сваю ляпу, хто цібе баіцца?* Залачэўка Краснап.

ЛЯ́ПАЦЬ, *дзеясл.* Ляпаць, стукаць. *Ня ляпай ты па стале, ато нічога ня чутна.* Юркаўка Чэрык.

ЛЯПЕ́КА, -і, *м.* Муляр, пячкур. *Прыйшоў к нам ляпека, будзіць печ класьць.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЯПЁХА, -і, *ж.* Поўная жанчына. *Жонка яго ляпёха-ляпёха, а сам, як шкілет.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЯПЁШКА, -і, *ж.* Перапечка. *Хлеб быў у дзешкі, а ляпёшка піклась ужо ны скыўрадзе.* Арцёмаўка Мілаcл.

ЛЯ́ПКА, -і, *ж.* Насечка, метка на бервяне. *Вялікыя ляпка ны бярне.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЯ́ПНУЦЬ, *дзеясл.* Ляпнуць, стукнуць. *Ляпнуў клямкый — ніхто ні адчыняя.* Хвёдараўка Краснап. *Ляпні яму па мордзі!* Палуж Краснап.

ЛЯ́ПЫЦЬ, *дзеясл.* Ляпаць, стукаць. *Ляпыя нехта ў дзьверы, пайдзі адчыні.* Палуж Краснап. *Што йта ты ляпыіш сяньні цэлыя раньня, ці гвоздзя куды ўбіваіш? Дос табе ўжо ляпыць, ато гылаву адурыў.* Арцёмаўка Мілаcл.

ЛЯСЕ́НКА, -і, *ж.* Посцілка, у якой носяць траву з поля. *Тэкля прынесла поўную лясёнку травы.* Свіслач Бабр.

ЛЯСІ́НА, -ы, *ж.* Лясіна, дрэва на корані. *Харошыя ета лясіна, калі б такіх з паўсотню, во хата б была добрыя.* Бяседавічы Хоцім. *Ета харошыя лясіна, а тая не.* Хвёдараўка Краснап. *Ого! Ікая вісокыя лясіна вырысла кылы дарогі.* Слаўнае Мсцісл.

ЛЯСКАТА́ЦЬ, *дзеясл.* Ляскаць. *Воўк стаў лі дарогі і ляскочыць зубамі. Нехта ляскоча палкыю аб паркан.* Палуж Краснап.

ЛЯСКА́Ч, -а, *м.* Пляскач. *Ой, глядзі, хлопча, заробіш ляскачоў.* Асмолавічы Мсцісл.

ЛЯ́СКЫЎКА, -і, *ж.* Гульня (адзін нагінаецца і зажмурвае вочы, яго па спіне б'юць, а ён павінен адгадаць, хто ўдарыў). *Дывайця гуляць у ляскыўку.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЯ́СКЫЦЬ, *дзеясл.* Ляскаць, стукаць. *У кузьні кувадла ляскыіць целый дзень.* Слаўнае Мсцісл.

ЛЯ́СНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Стукнуць, ляснуць, выцяць. *Ён рассердзіўся і ўцёк, ды як ляснуў дзьвірямі, аж вокны зызьвінелі.* Арцёмаўка Мілаcл. 2. Хутка пабегчы, уцячы. *Йна як ляснула, толькі ў вочы відзелі.* Сутокі Мсцісл.

ЛЯСНЫ́Й, *прым.* Лясны, лесавы. *Лясный арэх. Лісноя яблыка.* Пірагова Мсцісл.

ЛЯСУ́Н, -а, *м.* Лясун, дух лесу. *Уноччы ў лясу жывець лясун: як заблудзіш, дык ён водзіць пы лясу, штоб завесьць у якоя балота.* Слаўнае Мсцісл.

ЛЯСЬНІ́К, -а, *м.* Ляснік. *У лясной дачы Стахоўшчыне лясьнікoм быў Янушкевіч.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Лясьнік пашоў у абход лясной дачы.* Сохана Мсцісл. *Лясьнік дровы адбіў лі школы, січас вазіць на́ды.* Ралаўшчына Мсцісл.

ЛЯСЬНІ́ЦТВА, -а, *н.* Лясніцтва. *Быў я сяньні ў лясьніцтве, хадзіў даведыцца нашчот дроў, ці будуць прыдываць сёліта ў дачы.* Чыгрынаўка Расиян. *Дзесіць хлыстоў купіў у лясьніцтве.* Хвёдараўка Краснап.

ЛЯТУ́Н, -а, *м.* Лётчык, пілот. *У газэці пішуць, што лятун разьбіўся.* Маластоўка Краснап.

ЛЯЦЕ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Ляцець. *Вірабейчык мыладзенькій, яшчэ добра ляцець ці можыць, толькі падлётыя.* Пірагова Мсцісл. *Канюх ляцеў нізка над зямлёй.* Ракоўшчына Расиян. 2. Хутка ехаць. *Ляціць ны кані, як скажэнны.* Канічы Касцюк.

ЛЯЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Лячыць. *Лячыць кыня нада, ато прыпадзець — к кунувалу весьць нада його.* Ралаўшчына Мсцісл.

ЛЯЧЭ́БНЫЙ, *прым.* Лекавы. *Бліжэйшы лячэбны пункт знаходзіцца ад нас за дваццыць вёрст.* Бяседавічы Хоцім.

ЛЯ́ШКА, -і, *ж.* Ляжка, бядро, часць нагі ад жывата да калена. *У ляшку нешта ўступіла, баліць — ні вытрываць.* Зоры Чэрык. *Ныга склыдаіцца з трёх частык: ступні, цэўкі і ляшкі.* Слаўнае Мсцісл.

ЛЯШЧЫ́НА, -ы, *ж.* 1. *бат.* Ляшчына, арэшнік. *Ляшчына цьвіцець, яшчэ ні распускаючыся. На чом арэхі растуць? Ны ляшчыні.* Палуж Краснап. 2. Дубец для агароджы. *Вылымай ляшчыну з лескі ны ўсякі случай — ад сыбак адбыраніцца.* Слаўнае Мсцісл.

ЛЯШЧЫ́ННЫЙ, *прым.* Арэхавы. *Вырізый ляшчынную палку на вудзілішча.* Горкі Краснап.

ЛЯШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Ляшыць, адзначаць край пасеву, праводзячы рыску палкай або ўтыкаючы пучкі саломы. *Бацька зьбіраўся жыта сеіць і скызаў мне, штоб я ішоў зь ім ляшыць, а пазьней, кызаў, паедзім вылачыць.* Арцёмаўка Міласл. *Пры пасеве ляшыць можа й стары і малы.* Бель Мсцісл. *Бацька сеіць авёс, а сын яму ляшыць.* Хвёдараўка Краснап.

# М

МА́БЫЦЬ, *прысл.* Мабыць. *Мабыць хвор мой Васіль, што так доўга ні пріходзіць ка мне.* Лешчынка Мсцісл.

МАГА́, -і, *ж.* Мага, сіла. *Каб была мага, дык няўжо ж я ня зьдзелыў бы.* Дубровіцы Клім.

МАГАЗІ́Н, -а, *м.* Магазін, *Янка ўзяў із магазіну насеньня.* Чарнарэчкі Расням.

МАГЕ́РКА, -і, *ж.* Шапка. *Магерка твыя ўжо знасілысь.* Хвёдараўка Краснап.

МАГІ́ЛА, -ы, *ж.* Магіла, дол. *Астанкамі ў нашай мясцовасьці завецца адправа па пакойніку на дзевяты дзень пасьля сьмерці з абедам для радні і людзей, што капалі магілу.* Пірагова Мсцісл.

МАГІ́ЛКА, -і, *ж.* Памянш. ад магіла. *Пашлі мы гэста сёньня ны кладзішча магілку пыправіць, аж там усі магілкі сьвіньні парылі.* Ушакі Чэрык. *Магілку нада абкласьць дзёрным.* Брылёўка Краснап.

МАГІ́ЛКІ, *мн. л.* Магільнік [могілкі]. *Ны радыніцу трэба магілкі абцьвеціць, бярозык нысадзіць.* Старае Сяло Мсцісл. *Ны магілкых каплічка ёсьць, маленькыя тыкая. Стаіць іна пысярёд магілык і крыша завостріныя.* Арцёмаўка Міласл.

МАГІ́ЛЬЛЯ, -я, *н. зборн.* Магільнік [могілкі]. *Пынясьлі пратэсы ны магільля, памёр нехта.* Краснаполле.

МАГІ́ЛЬНІК, -а, *м.* Магільнік [могілкі] *Наш магільнік надта цікавы — увесь у бярэзьніку.* Лабаноўка Хоцім. *Магільнік наш ны гаре і агароджан.* Добрае Мсцісл. *Кыля магільніку боізна хадзіць.* Шумячы. *На магільнік пынясьлі нябошчыка.* Крычаў.

МАГНІ́Т, -а, *м.* Магніт. *Сапожнік магнітум сабіраіць разсыпыныя гвозьдзя.* Бяседавічы Хоцім.

МАГУ́ТНЫЙ, *прым.* Магутны. *Наша савецкыя дзіржава вяліка і магутна.* Сохана Мсцісл.

МАГЧЫ́, можч, *дзеясл.* Магчы. *Надзела баба кыбат і пывярнуцца ні можыць.* Ушакі Чэрык. *Етый сапожнік ладна шыць магець, яму можна боты аддаць зьдзелыць.* Рылаўшчына Мсцісл.

МАДЗЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Мадзець, жыць якнебудзь. *Неяк жывём — мадзеем патрошкі.* Старае Сяло Мсцісл. *Як маецеся? — Ат! Мадзеем троху.* Б. Хутары Краснап. *Ня жывуць яны, а мадзеюць толькі.* Хоцімск. *Аддзяліўся ад братоў, ну і мадзею патроху.* Сохана Мсцісл.

МАЁНТЫК, -тка, *м.* Маёнтак. *Раней тут быў бальшэй панскій маёнтык, а цяпер саўхоз.* Сохана Мсцісл. *Гэтый маёнтык быў атжалованый нейкаму шляхтычу.* Пірагова Мсцісл.

МАЖА́РКА, -і, *ж.* Сані з маленькімі драбінкамі. *У горад ехаць папрасі ў Янкі мажаркі.* Чарнарэчкі Расням.

МАЖА́РЫ, -аў, *мн. л.* Калёсы [воз, павозка] з драбінамі вазіць сена, снапы, салому. *Мажары поўны накладзены сенам.* Пухнава Мсцісл. *Зыпражы ў мажары кыня, паедзем па сена.* Каменка Расням.

МАЖНО́, *прысл.* Можна. *Ці можна туды праехыць? — Мажно!* Палуж Краснап.

МАЗКІ́, -оў, *мн. л.* Мазгі. *Мазкі тваe выпітрылі.* Хвёдараўка Краснап. *Ета толькі можыць зьдзелыць дуралей, у якога ў гылаве мазкоў німа.* Слаўнае Мсцісл.

МА́ЗЫЦЦА, *дзеясл.* Мазацца. *Дохтыр даў смазі — мазыцца.* Палуж Краснап. *Дос табе тут мазыцца 'б грязь.* Там жа.

МАЗЬНІ́ЦА, -ы, *ж.* Мазніца, пасудзіна, у якой трымаюць мазь на колы [дзягцярка]. *Янка, паедзім у горыд, дык ні забудзь узяць мазьніцу, мазі купіць нада.* Івоны Мсцісл.

МА́ІЦЬ, *прысл.* Мабыць. *Маіць, мы прыгнявілі бога, што ў нас хлеб ня родзя.* Сабалеўка Краснап.

МА́Й, -я і -ю, *м.* 1. Май, пяты месяц у годзе. *Думай ты ета: май мéсяц, а такі холад стаіць — ета ж ніколі ні було.* Пахадавічы Чэрык. 2. [Май], зелень [галінкі] для ўпрыгожвання хаты. *Усё ўжо зьдзелына к сьвяту, толькі нада паехыць у лес маю прывезьць.* Радзівонаўка Мсцісл.

МАЙДА́Н, -а, *м.* Зарослы хмызняком роў. *Пойдзім у майдан, там заціишней будзіць.* Касперка Міласл.

МА́ІМЫЙ, *прым.* Той, што ёсць [наяўны]. *Маімый у мяне конь быў куплін тры гады таму ныз̇ад.* Бяседавічы Хоцім.

МА́ІМЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Маёмасць. *Гнілая хата, старый конь і пыўнадзела зямлі — вот і ўся мыя маімысьць.* Бяседавічы Хоцім.

МА́ЙСКІЙ, *прым.* Майскі. *Я пыймаў майскыга жука.* Карма-Пайкі Краснап. *Стаіць сусім цёплыя майскыя пагода.* Негін Касцюк.

МАЙСТРІ́ЦЬ, *дзеясл.* Майстраваць, рабіць нешта. *Пірістань ты ўжо майстріць, лажысь спаць, а заўтрі закончыш свой сундук.* Бяседавічы Хоцім.

МАЙСТРЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Майстраваць. *Што ета ён там майструіць: ці новыя капыльля ў сані ставіць, ці новыя вязы дзелыіць?* Арцёмаўка Міласл.

МА́ЙСТРЯ, -я, *м.* Майстар. *Пархвен харошій майстря: Радзівону зьдзелыў кылаўрот на дзіва.* Маластоўка Краснап.

МА́ЙСТЫРЬ, -я, *м.* Майстар. *Ны зялезный дарогі Паўлюк майстырім быў.* Трубільня Краснап.

МАЙСТЭ́РНЯ, -і, *ж.* Майстэрня. *Бацька ў майстэрні — пакліч яго, ніхай ідзе абедыць.* Фядотава Буда Міласл.

МАЙСЬЦЕР, -тра, *м.* 1. Майстар. *Ладны майсьцер, усё зробіць, але абібок вялікій — работыць ні хочыць.* Мсціслаў. *Ён майсьцер абдзелыць такея штукі, у яго ета раз, два і гатова: спіцыяліст харошый.* Арцёмаўка Міласл. 2. Зух, спрытны, упраўны чалавек. *Каб ён быў майсьцер, то наклялаў бы ёй у шыю.* Радзівонаўка Мсцісл.

МАК, -у, *м. бат.* Мак. *У нас ны гародзе ўвесь мак — сымасейка, сам расьцець.* Пірагова Мсцісл. *Мак наш у гэтым годзе зусім курдупы.* Лапаціна Мсцісл.

МАКАВЫЙ, *прым.* Макавы. *Дзеўка цьвіцець, як макавы цьвет.* Каменкі Раснян. *Каб ён хоць з макывыя зерня даў паспрыбываць, якей у яго скус.* Зарубец Крыч.

МАКАРО́Н, -а, *м.* Макароны, лакшыны. *Ні варзекай ты етый макарон, а раскачывай харашо.* Куркаўшчына Мсцісл.

МАКАЎЁ, -я, *н. зборн.* Макаўкі, вяршкі [верхавінкі] дрэў. *Заехаў у лес ды макаўя набраў воз — тапіць нечым стала.* Цёмны Лес Раснян. *Прывёз на дровы мыкыўя.* Хвёдараўка Краснап.

МАКАЦЁР, -а [і -тра], *м.* Макацёр, гліняная пасудзіна, у якой труць мак. *Разьбіла я сяньні свой макацёр і неўчым будзіць маку сьцерць.* Касцюковічы. *Нылажылі сыру цэлы макацёр.* Машавая Бялынкав. *Я пірагі заўсёды пяку ў макатрэ.* Бялішчына Мсцісл.

МАКАЦЬ, *дзеясл.* Мачаць. *Макай бліны ў вяршыну.* Гібалы Касцюк.

МАКІ́ТРА, -ы, *ж.* Макітра, вялікая міска з гліны. *Пазыч мне, кума, макітру, хачу маковічкі зьдзелыць.* Мсціслаў.

МАКО́ВІЧКІ, -ыў, *мн. л.* Маковічкі, блінчыкі з макам. *Ныпікла я сяньні маковічкый, пыспрабуй, кумка, якія смашныя.* Хвёдараўка Краснап.

МАКО́ТРЫК, -а, *м.* Памянш. ад макацёр. *Я назьбірала макотрык масла.* Белы Камень Бялынкав.

МАКРА́НКА, -і, *ж. заал.* Макрыца. *У вас у хаце сырысьць зьвілась — макранка поўзаіць пы сьцяне.* Хвёдараўка Краснап.

МАКРІ́ЦА, -ы, *ж. бат.* Макрыца. *У гародзі макріца ўсі гряды апляніла, а ўнізе ўсё з-за яе прыпала, нада палоць, ды некылі.* Арцёмаўка Міласл. *Мамка ны градых рвець сьвіньням макріцу.* Залесавічы Крыч.

МАКРУ́ХА, -і, *ж.* 1. *заал.* Макрыца. *У нас у хаце сыра, аж макрухі зьвялісь.* Крычаў. *Вунь макруха пайзець пы сьцяне.* Барысавічы Клім. 2. *бат.* Макрыца. *Мамка пышла ны грады рваць сьвіньням макруху.* Барысавічы Клім.

МАКРЫ́ДА, -ы, *ж.* Уласнае імя Макрына. *Макрыда, вазьмі заслонку і закрый печку. Макрыда, садзісь-ка ткаць кросны.* Новыя Капачы Мсцісл.

МАКРЫ́ЦА, -ы, *ж. бат.* Макрыца. *Макрыца расьцець на градах і на бульбяньні; яе дужа любяць сьвіньні.* Пірагова Мсцісл. *Гарод зарос макрыцый, нада нырваць сьвіньнім.* Хвёдараўка Краснап. *Усі боразны макрыцаю зырасьлі.* Сохана Мсцісл.

МАКУ́ХА, -і, *ж.* Макуха, выжымкі з ільнянага семя пасля аддзялення ад яго алею. *Як білі масла, макуху зыбралі, дык добра ў пойла скату.* Парадзіна Мсцісл. *З двух пудоў кынапель вышла глёк алею і бальшэй круг макухі.* Бяседавічы Хоцім.

МАКУ́ШКА, -і, *ж.* Макушка, самы верх дзерава [галавы]. *Камель усягды, таўсьцей, як макушка.* Пірагова Мсцісл. *Вецір зламіў макушку бярёзы.* Хвёдараўка Краснап. *Вунь ны макушкі етый ляшчыны сідзяць аряхі; ты стань во на тэй пень, а я стану зьгінаць ляшчынку, дык дыстанім.* Немерка Раснян.

МА́КЫЎКА, -і, *ж.* Макаўка. *Нехта сяньні ўночы пырваў наш мак — ніводный макыўкі ні пакінуў.* Балакеры Мсцісл.

МА́КЫЎКУ ЗЬДЗЕЛЫЦЬ. Акунуцца ў ваду. *Макыўку зьдзелый і вылазь з рэчкі.* Хвёдараўка Краснап.

МА́ЛА, *прысл.* Мала. *Ні нада га́ліцца многа зьдзелыць; луччу мала, ды хырашо.* Арцёмаўка Міласл. *Крутнёю мала пражывеш.* Брылёўка Краснап.

МАЛАДЗІ́К, -а, *м.* Маладзік, малады месяц, вятох. *Ужо настаў маладзік.* Людагошч Мсцісл. *Ці маладзік яшчэ не наставаў?* Гібалы Касцюк.

МАЛАДНЯ́, -і, *ж.* Маланка. *Маладня бліснула.* Хоцімск. *Маладня ўсё неба перапылсыла.* Барысавічы Клім. *Сяньні ўсю ноч бліскала маладня.* Дубеец Касцюк. *Гром грыміць, маладня блішчыць — находзіць граза.* Пірагова Мсцісл.

МАЛАДУ́ХА, -і, *ж.* [Маладуха], маладая замужка [замужняя жанчына]. *Чыя гэта маладуха такая прыгожыя?* Вярбоўка Раснян. *А і многа ж песінь ведаець Петракова маладуха.* Буліна Касцюк.

МАЛАДЫ́Й, *прым.* Малады. *Маладый конь, а які спакойны.* Мсціслаў. *Есьць хваробы, ад якіх маладыя людзі абязьдзечываюцца.* Сохана Мсцісл. *Ён быў зусім маладэй, як жаніўся.* Хоцімск.

МАЛАКО́, -а, *н.* Малако. *Малако пастаў у судню.* Машавая Бялынкав. *Малако ў судніку стаіць, вазьмі ды еш.* Крычаў. *Мама, дай нам малака.* Журбін Бялынкав.

МАЛА́НКА, -і, *ж.* 1. Уласнае імя Маланка. *Маланка кросны тчэць, а Янка цэўкі сукаіць.* Дуброўна. 2. Маланка. *Маланка блішчыць раз за разым.* Каменкі Раснян. *Між туч блішчыць маланка.* Вярбоўка Раснян.

МАЛАТО́К, -тка, *м.* Малаток. *Прынясі малаток і бабку, нада касу накліпаць ны заўтра.* Сідараўка Хоцім.

МАЛАЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Малаціць. *Добрым цэпам добра і малаціць.* Пухнава Раснян. *Атмахаў я цэпам, хопіць зь мяне, дзьве нядзелі ўзапар малаціў.* Пірагова Мсцісл.

МАЛАЦЬБА́, -ы, *ж.* Малацьба. *Цяпер малацьба ідзець, дык нада рана ўставаць.* Пухнава Раснян. *У час малацьбы пабіўся біч.* Машавая Бялынкав. *У еўню насадзілі сем сот жыта сушыцца для малацьбы.* Сохана Мсцісл.

МАЛАЧА́Й, -я, *м. бат.* Малачай. *Малачай — зялёныя трыва з круглымі лісьцікамі; калі атырваць сьцябель — пойдзіць малако. Пайдзі ў гарод, нарві сьвіньнім малачаю.* Пірагова Мсцісл.

МАЛЕ́НСТВА, -а, *н.* Маленства. *Ён жа з маленства такей — дуркуваты трохі.* Парадзіна Мсцісл.

МА́ЛЕЦ, ма́льца, *м.* Малец, хлопец. *Добрый малец у Сьціпана: рыхманы, працавіты.* Хоцімск. *Майго мальца трэба ўжо жаніць.* Палуж Краснап.

МАЛЕ́ЧА, -ы, *ж.* Малеча, малалеткі, малыя дзеці. *Пайшла б у ягыды, але ж малечы не с кім дома пакінуць.* Барысавічы Клім. *Ня йдзі ты на вечарынку, там найшла малеча — пойная хата, вярнуцца нейдзе.* Пірагова Мсцісл. *Глядзі, каб малеча ні балывалысь.* Хвёдараўка Краснап.

МАЛІ́НА, -ы, *ж. бат.* Маліна. *Маліна сёліта ўрадзіла.* Ганнаўка Клім. *Дзядзька кызаў, што ў маліне бываюць чырвякі, паетыму ён ня хочыць есьць маліны.* Пірагова Мсцісл.

МАЛІ́НАВЫЙ, *прым.* Малінавы, пад колер маліны. *У Хрысьціны малінавыя хустка.* Старынкі Расиян. *Пыдкрасілі гарелку малінавым сокам.* Балакеры Мсцісл.

МАЛІ́СА, -ы, *ж. бат.* Маліса, пустазелле. *Маліса — сорныя трыва ны грыдах.* Пірагова Мсцісл.

МА́ЛІЦ, ма́льца, *м.* Малец [хлопец]. *У майго суседа маліц ужо вузрослы.* Канічы Касцюк. *Хто цябе абідзіў? Аво ж етый маліц.* Мсціслаў.

МАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Маліць, прасіць. *Прасілі, малілі яго, штоб памог — ні зыхацеў.* Маластоўка Краснап.

МАЛІ́ЦЬВІЦЬ, *дзеясл.* Маліць, упрошваць. *Маліцьвіў я яго з пыўгадзіны ці болі, але ж упрасіў — здаўся.* Тур'я Чэрык.

МАЛО́ДЗІВА, -а, *н.* Малодзіва, першае малако пасля ацёлу. *Наша карова цялілысь, і мы елі сяньні малодзіва.* Студзянец Касцюк.

МАЛО́ДКА, -і, *ж.* 1. Маладзіца. *Малодка нейкыя пышла.* Залесавічы Крыч. 2. Малодшая, меншая за дзевятку карта. *Усі малодкі ды мяне пупалі, і гуляй тут зь імі.* Негін Касцюк.

МАЛО́ДШЫЙ, *прым.* Малодшы, маладзейшы. *Мой малодшы брат паступіў у тэхнікум вучыцца.* Мсціслаў.

МАЛО́ЗІВА, -а, *н.* Малодзіва. *Мама варыла сёньні малозіва.* Зоры Чэрык. *Я дужа люблю малозіва.* Палуж Краснап. *Малозіва яшчэ не зварылась.* Камароўка Крыч.

МАЛО́ЦЦА, *дзеясл.* Малоцца. *Жыта сёліта сухоя — будзіць добра малоцца.* Старына Мсцісл.

МАЛО́ЦЬ, *дзеясл.* Малоць. *Пятрусь павёз жыта малоць.* Старынкі Расиян. *Зыпрасьцілі малоць у прудзе, дык уся дзяреўня меліць у жорнах.* Асінаўка Мсцісл.

МАЛО́ЧНЫЙ, *прым.* Малочны. *Наша рыжая карова дужа малочныя.* Пірагова Мсцісл.

МАЛО́ЧЫК, -а, *м.* Малойчык. *Пышукай ты, Марья, мне спавівальнік, спавіць малочыка нада.* Канічы Касцюк.

МАЛО́ШНІК, -а, *м. бат.* Малачай. *Іна ні атлічаіць малошніка ат асоту, ты ж глядзі: асот коліцца, а малошнік не, і кылі пулумаіш яго, дык зь яго мылако цякець.* Арцёмаўка Міласл.

МАЛО́ШНЯ, -і, *ж.* Малачарня. *Пубяжы, сынок, у малошню, купі мылыка. У малошню кожны дзень прівозяць свежыя малако.* Краснаполле.

МА́ЛЫЙ, *прым.* Малы. *А яго і малый аб'ягорысь.* Куркаўшчына Мсцісл. *Бальшун ты, нашто ты малых забіджаіш?* Хвёдараўка Краснап. *Ашуканства ён тут зрабіў не малае.* Пірагова Мсцісл. *Мал мне твой персьцінь — ны паліц ні лезіць.* Бялішчына Мсцісл.

МАЛЬГВА́, -ы, *ж.* Дробязь, глупства. *Ета ж мальгва, ні стоіць зь етым лічыцца.* Хвёдараўка Краснап.

МАЛЬЧЫШКА, -і, *м.* Хлапчук. *Ну і мальчышка ж, ныстыяшчыя галуза: круціцца, верціцца — ні мінуткі ні пысядзіць.* Добрае Мсцісл.

МАЛЯ́Р, -а, *м.* Маляр. *Сяньні к нам маляр прыдзець — вокны красіць.* Старынкі Расиян.

МАЛЯРЫ́Я, -і, *ж.* [Малярыя], ліхарадка. *У нас малярыю цяцюхый завуць.* Бардзіч Краснап.

МА́МА, -ы, *ж.* Матка, маці. *Мама латак напякла.* Сапрынавічы Мсцісл. *Мам, дай мне крупені.* Пабкі Расиян.

МА́МКА, -і, *ж.* Матка, мамуля. *Мамка, ідзі дзіцёнык плачыць.* Мсціслаў. *Мамка мыя, любычка, купі мне хусту.* Івоны Мсцісл.

МАМО́Н, -а, *м.* Глухі чалавек. *Мамон етый нічога ня чуя.* Хвёдараўка Краснап.

МАМО́СЫЧКА, -і, *ж.* Кропелька, маленькая частка. *Ні мамосычкі хлеба німа.* Хвёдараўка Краснап.

МАМУ́ЛЬКА, -і, *ж.* Мамулька (ласкальнае). *Мамулька, любунка ты мыя.* Слаўнае Мсцісл.

МАМУ́ХНА, -ы, *ж.* Мамачка, мамулька. *А мамухна ты мыя, а што ж ета ты нырабіла!* Галічы Мілася. *Ета табе ні ў роднай мамухны раскашывацца.* Івоны Мсцісл.

МА́МЫЧКА, -і, *ж.* Мамачка. *Мамычка, любычка, купі мне новыю кохтычку.* Слаўнае Мсцісл.

МАНА́, -ы, *ж.* Мана, хлусня. *Мана ета, ні слухайце вы етый маны!* Канава Хоцім.

МАНА́ТКІ, -так, *мн. л.* Манаткі, невялікая маёмасць. *Зыбірай свае манаткі і валі!* Хвёдараўка Краснап.

МАНА́Х, -а, *м.* Манах. *Зшыў сабе сьвітку на падобства манаха і ходзіць у ёй.* Пірагова Мсцісл.

МАНЕ́РА, -ы, *ж.* Манера. *У яго манера панскыя.* Чыгрынаўка Расиян.

МАНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Маніць, гаварыць няпраўду. *Ён табе маніць, а ты яму верыш.* Слаўнае Мсцісл.

МАНІ́ШКА, -і, *ж.* Манішка. *Надзеў белыю сарочку з вышытай манішкай.* Машавая Бялынкав.

МАНТА́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Мянціць, вастрыць касу мянтушкай. *Касец стаў мантачыць сваю касу.* Маластоўка Краснап.

МАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Трапіць, папасці куды трэба. *Хадзіў, хадзіў, а ткі мануў ны дарогу.* Бакунавічы Чэрык.

МА́РА, -ы, *ж.* Мара, здань. *Як мара якая ты явіўсь пірада мной — ніколі ні думыла цібе бачыць.* Ушакі Чэрык.

МАРАХА́НІЦЬ, *дзеясл.* Траціць час дарма. *Дос табе там мараханіць, ідзі скарэй малаціць.* Пірагова Мсцісл.

МАРГЕ́ЛКА, -і, *ж.* Маргелка, шапка з лямцу. *Маргелку надзень, гылаву прастудзіш.* Хоцімск. *Прынясі маю маргелку, на дваре халодна нешта, штоб гылавы ні прастудзіць.* Тур'я Чэрык. *Мірон, гдзе ты згубіў сваю маргелку, што з голай гылавой ідзеш двору?* Мсціслаў.

МАРДАПЛЮ́Й, -я, *м.* Сапляк. *Мардаплюй ты йшчэ, а старэйшыга хочыш спыдманущь.* Хвёдараўка Краснап.

МАРДУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Мардавацца, мучыцца. *Чаго ты мардуісься, адпачынь троху.* Кокатава Мсцісл.

МАРЖО́К, -жка, *м.* Памянш. ад морг. *Бацька косіць маржок, што кыля рэчкі.* Людагошч Мсцісл.

МА́РІЦ, ма́рца, *м.* Сакавік, трэці месяц у годзе. *Маріц укусіць зы паліц.* Гібалы Касцюк. *Маріц першы месяц вясны.* Арцёмаўка Міласл.

МА́РКА, -а, *м.* 1. Уласнае імя Марка. *Марка далёка ў высачэнь шубая камнім.* Палуж Краснап. 2. Марка паштовая, знак. *Што ета такоя — марка ёсьць, а пісьмо з дыплатый?* Івоны Мсцісл.

МАРКАТА́ЦЬ, *дзеясл.* Бляяць. *Прынясі-ка ты клок сена айцэ, ці ні пірістаніць яна маркатаць.* Добрае Мсцісл.

МАРКЕ́ЛКА, -і, *ж.* Маргелка. *Пыра ўжо маркелку надзіваць — холадна.* Барысавічы Клім.

МАРКО́ТА, -ы, *ж.* Маркота, сумны настрой. *Маркота ны мяне нейкыя ныпала, нідзе мейсца сабе ні найду.* Бакунавічы Чэрык.

МАРКО́ТНА, *прысл.* Маркотна, сумна. *І так ета маркотна ў хаці адной сядзець.* Парадзіна Мсцісл. *Ну ці маркотна вам там было бяз людзей.* Пабкі Расиян.

МАРКО́ТНЫЙ, *прым.* Маркотны, сумны. *Сядзіць хлапец маркотный, і некыму яго рызьвісяліць.* Вінаградаў Міласл. *Чаго ты сяньні тыкая маркотныя?* Зялёны Сарай Мсцісл.

МАРКО́ЎНІК, -а, *м. бат.* Маркоўнік. *Маркоўнік расьцець на пустырах, пахож на націну морквы, цьвіцець белым цьветам.* Пірагова Мсцісл.

МАРКО́ЦІЦЦА, *дзеясл.* Маркоціцца, сумаваць. *Маркоціцца чылавек, а німаведыма чаго.* Маляцічы Крыч.

МАРНЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Марнець. *Іван! Чаго ты пачаў марнець, ні то ты ніздароў, ці то хто цябе ведае.* Добрае Мсцісл.

МАРО́З, -у, *м.* Мароз. *Зачыняй вараўню, ато мароз зойдзе.* Мсціслаў. *Пысьля марозу зноў наступіла адлега.* Лешчынка Мсцісл.

МАРО́КА, -і, *ж.* Марока, замарачэнне, зацменне розуму. *Марока яе ведаіць, куды яна пыйшла.* Ханеўка Крыч.

МАРУ́ДА, -ы, *ж.* Маруда. *Скарэй ты шывяліся, маруда, ато да вечыра ня зьдзелаіш.* Радзіонаўка Мсцісл.

МАРУ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Марудзіць, рабіць не спяшаючыся. *Арына ня шыя, а толькі марудзіць.* Малюшын Краснап. *Дзяўчыне трэба ісьці ў школу, а яна марудзіць.* Крычаў.

МАРУ́ДНА, *прысл.* Марудна. *Нешта ў цябе, хлопіц, работа марудна ідзець.* Дубец Касцюк. *Ні дажджэсься ты, ён дужа марудна шыіць.* Слаўнае Мсцісл. *Марудна ты прадзеш.* Роськаў Касцюк.

МАРХО́ТКА, -і, *ж.* Махры. *У Ганны ў платку красівыя мархотка пы краёх.* Добрае Мсцісл.

МАРЦО́ВЫЙ, *прым.* Марцовы [сакавіцкі]. *Марцовый сьнег ужо бываіць мяккій і прасоўваецца.* Пірагова Мсцісл.

МАРЫ́ЛЬКА, -і, *ж.* Памянш. ад Марыля. *Марылька, прынясі з клеці хлеба.* Стары Дзедзін Міласл. *Налі, Марылька, палонікым крупені ў міску.* Роськаў Касцюк.

МА́РЫЦ, -а, *м.* Сакавік, трэці месяц года. *Сёліта ў марыцы ўжо пшаніцы засеюць.* Буліна Касцюк. *Сьнег пачаў таяць толькі ў марыцэ.* Пірагова Мсцісл.

МАРЬТЫ́ХА, -і, *ж.* Малпа. *Ны бызарі нейкі хокуснік з марьтыхый, а іна ік чылавек, толькі маліенькыя.* Мсціслаў.

МАСАЛБА́С, -а, *м.* Балдэс [аболтус]. *Эх, масалбас ты! Што ета ты надзелыў?* Хвёдараўка Краснап.

МАСАЛЫ́ГА, -і, *ж.* Костка [масол]. *У цябе, брат, дужа бальшэя масалыгі на ныгах.* Тур'я Чэрык.

МАСКО́ЛІЦЦА, *дзеясл.* Тупіць што-небудзь вострае. *Чаго ён масколіцца с тыпаром?* Хвёдараўка Краснап.

МАСКО́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Затупляць. *Масколіць тапор аб гвозьдзя, ці ты ні бачыш, што іх тут поўна?* Хвёдараўка Краснап.

МАСКО́ЎКА, -і, *ж.* Сякера (рускага ўзору). *Дай ты, Хвёдар, мне свае маскоўкі, буду хату будаваць.* Бялішчына Мсцісл.

МАСКО́ЎШЧЫНА, -ы, *ж.* Мадэпалам, тканіна. *Тата мне купіў маскоўшчыны на плацьця.* Глінь Касцюк.

МА́СЛА, -а, *н.* Масла. *Масла ёлка — есьць ня можна.* Брылёўка Краснап. *Маці ныжарыла каклет ны масьлі.* Арцёмаўка Міласл.

МАСО́Л, мысла́, *м.* [Масол], косць. *Кінь масол пад стол сыбаку.* Рэкта Расиян. *Накідылі маслоў пад стол, як ны вясельлі.* Сабалёўка Хоцім. *У сасоньніку многа маслоў выляіцца, там коні лупюць.* Бяседавічы Хоцім. *На, абглыдай масол: у етым мясі быгата маслоў.* Глінь Касцюк.

МАСТА́К, -а, *м.* Мастак [майстар]. *Як бачыш, ён добры мастак: змайстрыў вулей, дык красыта.* Добрае Мсцісл.

МАСЬЛЁНКА, -і, *ж.* Страва з тоўчанага канаплянага семя з цыбуляй. *Масьлёнка дужа смашныя.* Хвёдараўка Краснап.

МА́СЬЛІНКА, -і, *ж.* Масленіца. *Масьлінка з блінамі, а пост з грібамі.* Гібалы Касцюк.

МАСЬЛЯ́НКА, -і, *ж. бат.* Масляк. *Масьлянкі — грыбы добрыя: смажаныя яны вельмі смашныя.* Пірагова Мсцісл.

МАСЬНІ́ЦА, -ы, *ж.* Дошка ў падлозе, палавіца. *Між масьніцымі шчэлка, дык дуе ў ногі адтуль, спаднізу.* Парадзіна Мсцісл. *Адна масьніца ў мосьці прывалілыся.* Тур'я Чэрык. *На мост у хаці ні хапаець масьніц.* Мсціслаў.

МА́СЬЦІР, -а, *м.* Майстар. *Ён масьцір бріхаць, як ныпавыдумляіць, дык радзіміц яго ведуіць, адкуль ён ета бярэць.* Арцёмаўка Міласл.

МАСЬЦІРНА, *прысл.* Па-мастацку [па-майстэрску]. *Майсьцірна зрабій, што і кызаць.* Палуж Краснап.

МАСЬЦЬ, -і, *ж.* 1. Колер шэрсці ў жывёлы. *У мяне быў конь гнядой масьці.* Зялёны Сарай Мсцісл. 2. Масць (у картах). *У калодзі карт — чатыры масьці: бубна, чэрві, піка і трефа.* Бяседавічы Хоцім.

МАТ, -а, *м.* Голас. *Ні сваім матым закрычаў.* Хвёдараўка Краснап. *Го́ра маё такоя, хоць мату прыдайся.* Хутары Краснап.

МА́ТА, -ы, *ж.* Мата. *Трэба мату к вакошку зрабіць.* Хвёдараўка Краснап. *Вокны матыю закрываем на ныч, штоб ні так замірзалі.* Қасцюшкавічы Крыч.

МАТАВІ́ЛА, -а, *н.* Матавіла. *Надзела маток на матавіла, ды нешта ні разматываецца.* Пабкі Раснян. *Прынясі матавіла, будзім матаць маткі.* Крычаў. *Змытай шпульку нітак на матавіла.* Бялішчына Мсцісл.

МАТАРЭ́ЙКА, -і, *ж.* Прылада ў самапрадцы, якая круціць нітку і наматвае на шпульку. *Матарэйка ў самапраццы дрэнная.* Хвёдараўка Краснап.

МАТА́ЦЬ, *дзеясл.* Матаць. *Прынясі матавіла, будзем матаць ніткі.* Барысавічы Клім. *Падай сукала, мне трэ ніткі матаць.* Татаршчына Мсцісл.

МА́ТКА, -і, *ж.* Матка. *Матка, радзіўшы яго, ні знала, куды дзіваць і як гудуваць.* Арцёмаўка Міласл. *Матка кукобіла, лялебіла дзіцятку, а йно ўзяло ды памёрла.* Маластоўка Краснап.

МА́ТКІН, *прым.* Матчын. *Дычка ў матку ўдылася: маткіны вочы, бровы, маткіны й пынароўкі.* Палуж Краснап. *Ета маткін сын, а ета бацькін.* Пабкі Раснян.

МАТО́К, матка́, *м.* Маток. *Зматала маток нітак.* Крычаваткі Раснян. *Я купіла чэрні красіць маткі.* Буліна Қасцюк.

МАТРАШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Марасіць [імжаць], сеяць, як праз сіта (пра дождж). *Маленькі дожджык матрашыць.* Тэкліна Смал. *Цэлы дзень дожджык матрашыць.* Кокатава Мсцісл.

МАТРУ́НА, -ы, *ж.* Уласнае імя Матруна. *Матруна сьлічныя дзеўка, у дзеўкых доўга ні заседзіцца.* Палуж Краснап.

МАТУ́З, -а, *м.* Матуз. *Маці прышыла да хвартуха матуз.* Ганнаўка Клім. *Ад майго хвартуха адарваўся матуз.* Қамароўка Клім. *У цёткі адарваўся матуз, і хвартух паляцеў на падлогу.* Рылаўшчына Мсцісл.

МАТУ́ЗІЦЬ, *дзеясл.* Біць матузом. *Матка ўзяла матузы і дывай яго матузіць.* Юркаўка Крыч. *Як пычаў яго матузіць, дык чуць ні забіў.* Хвёдараўка Краснап.

МАТУ́ЗКА, -і, *ж.* Матузок. *Дай мне тую матузку торбу завізаць.* Куркаўшчына Мсцісл.

МАТУЗО́К, -зка, *м.* 1. Памянш. ад матуз. *Матузок у хвартуху адырваўся.* Вітрунь Қасцюк. 2. Вузкі шнур зямлі. *Матузок упярок ні пашуць.* Дуброўна.

МАТУ́Н, -а, *м.* Манюка, хлуслівы чалавек. *Ну і матун жа ён: мне скызаў адно, яму скызаў другое, а трэціму саўсім ныгаварыў таго, што й ніколі ні было.* Бяседавічы Хоцім.

МАТУ́СЯ, -і, *ж.* 1. Матуся, матуля. *Матуся мыя, родныя, ня бі мяне, я ня вінуват.* Крычаў. 2. Хросная матка. *Матуся мне заўсёды ны вяліkдзін яйцо даець, а хрёсны не.* Юркаўка Крыч.

МА́ТУШКА, -і, *ж.* Пападдзя. *У нашыга папа была вельмі тоўстая матушка.* Міцькаўшчына Мсцісл.

МАТЫ́ГА, -і, *ж.* Матыка. *Бяры матыгу і ідзі акапай бульбу.* Тур'я Чэрык.

МАТЫ́КА, -і, *ж.* Матыка, ручная прылада для асыпання бульбы, гародніны. *Матыка злымалысь у етый багні, дык дзе ж тут бульбі быць.* Қасцюковічы. *Варочай матыкай лепш дзёран.* Варанёва Крыч. *Нада пазычыць у каго матыку ды пуматычыць бульбу, ато ўся іна зырысла травою.* Бяседавічы Хоцім.

МАЎМЫ́РА, -ы, *ж.* Нясмелы, саромлівы. *Маўмыра нейкыя, а ні хлопіц, ён жа слова баіцца скызаць з чужым чылавекам.* Барысавічы Клім.

МАЎЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Маўчаць. *Целый дзень маўчыць і пікнуць ня сьмеіць.* Бяседавічы Хоцім. *На табе рэзьнік, толькі маўчы.* Мсціслаў. *Чмур етый заўсёды маўчыць.* Бародзькава Мсцісл.

МАХ, -у, *м.* Момант [і скок, скачок, мах]. *У адзін мах зьбегыў двору. Речку пірескачыў у адзін мах.* Слаўнае Мсцісл. *Хадзіць пы дзярэўні ды семя лузгаіць, нічога ня дзелыіць балдэс етый, а за дзеўкымі, дык махым ні тмыхаць.* Арцёмаўка Міласл.

МАХАВІ́К, -а, *м. бат.* Махавік. *Махавік — серынькій грыб, расьцецць у сырых местах. Назьбірала махавікоў троху.* Пірагова Мсцісл.

МАХАЛЕ́Я, -і, *ж.* Доўгі, нецікавы расказ. *Во завёў махалею на ўвесь вечыр, і пыняць нічогінька нільзя.* Куркаўшчына Мсцісл.

МА́ХАНЬКІЙ, *прым.* Маленькі. *Маханькі хлопчык такі, а ўжо быдлу гоніць.* Іванаўка Хоцім.

МАХІ́НА, -ы, *м.* [Махіна], высокі чалавек, вярзіла. *Наш Сёмка вырас, як махіна.* Крычаў. *Глянь-ка, во пашоў махіна!* Лютня Краснап.

МАХНЫ́ТКА, -і, *ж.* Галавешка. *У печкі зыстылась адна махнытка і курыць.* Шумячы. *Матка заліла вадою ў печы махнытку.* Гібалы Қасцюк. *Залі ты тэя махныткі, штоб ні сьмярдзілі.* Қасцюковічы. *Ты комін зачыніла, а там у печкі, знаць, махнытка яшчэ зыстылась, нешта дымна ў хаці.* Арцёмаўка Міласл.

МАХНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Махнуць. *Хацеў спудзіць кыня з аўса і махнуў ны яго шапкыю, а той выскаліў зубы ды да міне — ледзь я ўцёк, хай на яго ваўкі.* Касперка Міласл.

МАХО́РКА, -і, *ж.* Махорка, табак. *Як ні стала махоркі, дык дзядзькі панаўчыліся тыбаку сеіць і січас усі сымасейку курацЬ.* Рылаўшчына Мсцісл.

МАХО́ТКА, -і, *ж.* Круглы, невялікі гаршчок. *Я сяньні наварыла цэлую махотку бульбы.* Бяседавічы Хоцім. *На абед мама зварыла махотку кардохыль, ды ўчырашнія*

*капуста ёсьць.* Арцёмаўка Міласл. *У печы ў махоткі каша стаіць — дыстань ды еш.* Машавая Бялынкаў.

МАХРА́, -ы, *ж.* Махорка. *Поўны кісет махры за дзень выкурыў.* Палуж Краснап.

МАХРА́Ч, -а, *м.* Рушнік, у якім носяць абед на поле. *Баба зрабіла новы махрач насіць абед на поля.* Куляшоўка Клім. *Пыставіла суднікі ў махрач і думыла нясьці 'бед на поля, аж і ты ідзеш.* Хвёдараўка Краснап.

МАХРА́ЧЫК, -а, *м. бат.* Махрачык (расліна). *Пыйшла на луг ды нырвала красных махрачыкаў.* Хвёдараўка Краснап.

МАХРЫ́, -оў, *мн. л.* Махры. *Я купіла сабе кышымірывыю хвустку з даўжэнымі мыхрамі.* Слаўнае Мсцісл. *Пірістань хустку цігаць, ато ўжо ўсі махры пыбарвалі.* Добрае Мсцісл.

МА́ХЫЛА, -а, *н.* Махала. *Як унадзіліся віраб'і ў проса, хоць махылам мыхай.* Палуж Краснап.

МА́ХЫМ, *прысл.* Махам, у момант. *Махым зраблю ўсё.* Хвёдараўка Краснап. *Пыглядзіш, што адным махым ачынуся ў горыдзі.* Слаўнае Мсцісл. *Як ішло махым, дык пайшло прахым.* Хвёдараўка Краснап.

МА́ХЫРЬ, -я, *м.* Майстар. *Ён махырь на ета.* Хвёдараўка Краснап. *Эйш, якей ты махырь!* Вінаградаў Міласл.

МАЦЕ́Й, -я, *м.* Уласнае імя Мацей. *Ну і адпратаў жа Аўхім Мацея.* Галоўчыцы Касцюк.

МАЦЕ́РЫЯ, -і, *ж.* Матэрыя. *Лавышнік адшаркнуў ад целыя трубкі кусок мацерыі.* Слаўнае Мсцісл. *Няма ніякіх мацерый у кіпіраціве, акрамя пракалю ды сітцу.* Пірагова Мсцісл.

МА́ЦІ, -ірі, *ж.* Маці. *Маці прынесла с клеці сала.* Роськаў Калініншчына. *Маці прышыла каўнер.* Ганнаўка Клім.

МАЦКО́М, *прысл.* Вобмацкам. *Лявон мацком знайшоў сваю хату.* Палуж Краснап. *Мацком зыпалкі знайшоў.* Азерцы Клім.

МА́ЦЫЦЬ, *дзеясл.* Мацаць, шчупаць. *Мацыў, мацыў і ні нымацыў бруска ў мяху.* Хвёдараўка Краснап. *Ён доўга мацыў у пацёмкых кыля дзьвярэй — усё іскаў клямкі.* Арцёмаўка Міласл.

МАЦЬВЕ́Й, -я, *м.* Уласнае імя Мацей. *Асьміялі Мацьвея на ўсю дзярэўню за нішто.* Слаўнае Мсцісл.

МА́ЧЫХА, -і, *ж.* Мачаха. *Ажаніўся ў другі раз, дык мачыха проста заела пасынка.* Парадзіна Мсцісл. *Сірата Зося кожны дзень плача ад сваёй мачыхі.* Міцькаўшчына Мсцісл.

МАЧЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Мокнуць. *Увесь дзянёчык мачыліся людзі ны даждЖы.* Палуж Краснап.

МАЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Мачыць. *Нада лён мачыць, ты сяньні нікуды ня йдзі.* Рылаўшчына Мсцісл.

МА́ШТА, -ы, *ж.* Мачта. *Машты бываюць на кырыблях, на іх ныцягывыюць парусы.* Бяседавічы Хоцім.

МАШЫ́НА, -ы, *ж.* 1. Машына. *Машына сапсувалыся, ні работыя.* Палуж Краснап. 2. Цягнік, поезд. *Першы раз я ехыў ны машыне.* Радзівонаўка Мсцісл.

МАШЭ́НЬНІК, -а, *м.* Машэннік. *Атшколь етыга машэньніка.* Хвёдараўка Краснап.

МАШЭ́НСТВА, -а, *н.* Машэнства. *Ета ж настыяшчыя машэнства: узяў грошы і ні 'ддаець.* Дубровіцы Клім.

МА́ЯТНІК, -а, *м.* Маятнік. *Часы сьпішаюцца, нада маятнік пыдняць.* Дзеражна Касцюк.

МЕ́ДНЫЙ, *прым.* Медны. *У мяне ёсьць медныя каленчатыя трубка.* Бяседавічы Хоцім.

МЕДУНІ́ШНІК, -а, *м. бат.* Медунец. *Медунішнік — белая, пахучая красачка; бабы зьбіраюць яе на якія-та лякарствы. Назьбірай, кума, медунішніку ды ныпар, во і пройдзя твыя хвор.* Пірагова Мсцісл.

МЕЖАВІ́К, -а, *м.* Каморнік. *Трэба ехаць па межавіка: ніправільна межы павыводзілі.* Хвёдараўка Краснап.

МЕ́ЖЫНЬ, -і, *ж.* Веснавая пара, калі многа сокаў у дрэвах. *У межынь лыкі добря дзяруцца.* Хвёдараўка Краснап.

МЕЖЫПЕ́РСЬНІЦА, -ы, *ж.* Нарыў паміж пальцаў. *У мяне межыперсьніца, пальцым шывальнуць ня можна.* Хвёдараўка Краснап.

МЕЗКА́, -і, *ж.* Мязга, камбій. *Дзеці зьдзіраюць з асіны кару і ядуць салодкую мязку.* Юшкавічы Раснян.

МЕ́КАЦЬ, *дзеясл.* Разважаць, думаць. *Алесь доўга мекаў, ці пайці яму ў лес.* Пархвенава Калініншчына.

МЕЛ, -у, *м.* Крэйда. *Столь пабелена мелам.* Канава Хоцім.

МЕ́ЛА, -ы, *ж.* Крэйда. *Етыя мела ня пішыць, а толькі дошку рэжыць.* Шарэйкі Касцюк.

МЕ́ЛКІЙ, *прым.* Дробны. *Бульба сёліта мелкыя — сухей год быў, дык ні вырысла.* Зоры Чэрык.

МЕ́ЛЬНІК, -а, *м.* Мельнік. *Мельнік пашоў у млын.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Мельнік быў шчадушный, нізенькій старычок.* Сохана Мсцісл.

МЕ́ЛЬНІЦА, -ы, *ж.* Млын. *Пайдзем у мельніцу ва́жыцца.* Канічы Касцюк. *Вася зьдзелыў чудныю мельніцу.* Шарэйкі Касцюк.

МЕ́НІЦЬ, *дзеясл.* Змяншацца. *Дождж стаў меніць. Дзень пычаў меніць.* Палуж Краснап.

МЕНШ, *прысл.* Менш. *Сёліта я жыта ныжаў менш, як летысь.* Макуліна Раснян. *Тут будзе ня менш, як два пуда.* Пірагова Мсцісл.

МЕ́НШЫ, *прысл.* Менш. *Мы ныкасілі меншы сена, як у мінулым годзе.* Бяседавічы Хоцім.

МЕ́НШЫЙ, *прым.* Меншы. *Ты, як меншыя, дык табе прышлей пасьвіць кароў.* Куркаўшчына Мсцісл.

МЕ́РАТ, -а, *м.* Нерат. *Хтось-та патрос мае мераты і зыбраў рыбу.* Вярбоўка Раснян.

МЕ́РЗНУЦЬ, *дзеясл.* Мерзнуць. *Зьвізала вязёнкі, дык рукі ні мерзнуць.* Парадзіна Мсцісл. *Яблыкі зьнімаюць з дзярэў і кладуць на вышкі мерзнуць.* Пірагова Мсцісл.

МЕРЗЬЛЯ́ЧЧА, -а, *н. зборн.* Мёрзлыя

камякі. *Мерзьлячча ета ні ўкыпаіш.* Хвёдараўка Краснап.

МЕ́РКА, -і, *ж.* Мерка. *Прынясі мерку, нада памерыць, скольскі тут будзіць бульбы.* Бяседавічы Хоцім. *Твыя мерка ні правільныя.* Ташна Клім.

МЕРКАЦЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Мармытаць. *Ён сонны нешта ўсё меркаціць.* Горкі Краснап.

МЕРЦЫ́, -оў, *мн. л.* Мерцвякі. *Кажуць, што ны кладыўі мерцы ўстаюць ноччу.* Палуж Краснап.

МЕ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Мераць. *Прыехыў каморнік, мерыць зямлю будзіць.* Краснаполле. *Каморнік зямлю мерыць.* Сохана Мсцісл.

МЕ́СІК, -а, *м.* Месяц. *На небі паказаўся месік.* Чыгрынаўка Раснян. *Месік схуваўся за тучу.* Касцюковічы. *Сяньні сьвеціць месік.* Кокатава Мсцісл.

МЕ́СІЦ, -а, *м.* Месяц (адрэзак часу). *Больш месіца, як дзіцёнык радзіўсь.* Ушакі Чэрык. *У маі месіцы бабы зьбіраюць зельля на лікарства.* Радзіонаўка Мсцісл.

МЕ́СІЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад месік. *Месічык мыладзенькі ўзышоў.* Бабынічы Мсцісл.

МЕ́СНЫЙ, *прым.* Тутэйшы [мясцовы]. *Ён сам месный, яго дзяды і прадзіды тут жылі.* Бяседавічы Хоцім.

МЕ́СТА, -а, *н.* 1. Горад, мястэчка. *Яго сын ужо на места ходзіць в сімілетку.* Бяседавічы Хоцім. *Паехыў на места, мо солі купіць.* Маластоўка Краснап. 2. Базар. *Я пайду на места, мо масла ці яец куплю.* Крычаў. 3. Месца. *Рыскашырціcь-ка троху, дайця й нам места.* Маластоўка Краснап. *Я хачу астацца на гетым месьці, нікуды ні пайду.* Пірагова Мсцісл.

МЕ́СЬКІЙ, *прым.* Мескі, гарадскі. *Меськія етыя жулікі, так і глідзяць, штоб абжуліць цябе.* Негін Касцюк. *Зьвінчалі Мыланку сілью, || Вінчаў жа яе меській поп, || А ўзяў зы яе дзесіць коп.* З нар. песні, М. Г. 20.

МЕ́СЯК, -а, *м.* Месяц. *Месяк на небі толькі што ўзышоў.* Усцінавічы Краснап. *Сяньні месяк сьвеціць, дык відна будзіць іціць.* Вярбоўка Раснян.

МЕ́СЯЧНЫЙ, *прым.* Месячны, відны ад месяца. *Наступілі месячныя ночы.* Кажамякіна Краснап.

МЕ́ТА, -ы, *ж.* Знак. *Ці пыставіў ты на айчынах сваю мету?* Хвёдараўка Краснап.

МЕ́ТКА, -і, *ж.* Знак. *Віўшы вожкі, нада ўвіць ласкут які сіні ці красный для меткі, штоб ніхто ні ўкраў.* Арцёмаўка Міласл.

МЕХ, -а, *м.* Мех. *Зь етый грушы мы нытрасьлі целый мех падуль.* Тур'я Чэрык. *Ныжала мех травы, а прынесьць ні хапіла сілы.* Парадзіна Мсцісл.

МЕ́ЦЦА, *дзеясл.* Мецца, мець намер. *Наш дзядзька меўся быць у нас.* Юшкавічы Раснян. *Ён меецца ўзяць мяне за жонку.* Палуж Краснап.

МЕЦЬ, *дзеясл.* Мець. *Гэта ж нада мець цярплівысьць, каб знасіць такую ругань.* Лешчынка Мсцісл. *Мець скаціну хызяіну ны дваре — ета самыя лутшыя справа.* Канічы Касцюк. *Сёліта скот ны бызарі вялікі сбыт маіць.* Слаўнае Мсцісл.

МЕ́ШКА, -і, *ж.* Мешанка, корм. *Нада конім даць мешкі.* Хвёдараўка Краснап.

МЕШЧАНІ́Н, -а, *м.* Мешчанін. *Сяньні нейкі мешчанін прыдываў шубу за трыста рублёў.* Гусарка Клім.

МЕШЧА́НКА, -і, *ж.* Мяшчанка. *Мешчанка таргуець тытуном на кірмашах.* Міцькаўшчына Мсцісл.

МЕ́ШЫНЬ, -і, *ж.* Узорванне другі раз. *Сёньні я пыхаў мешынь пад жыта.* Хвёдараўка Краснап.

МЁД, -у, *м.* Мёд. *Яблыкі гетыя смашныя, як мёд.* Юшкі Мсцісл. *Ідзём у садок, там дзед мёду нам дасьць.* Бяседавічы Хоцім. *Поўны лазьбень мёду ныбралі.* Вербеж Чэрык.

МЁРТВЫЙ, *прым.* Умерлы. *Мёртвыга пылажылі ў труну.* Маластоўка Краснап. *Нехта дужа жалобна выў ны кладбішчы па мёртвыму.* Слаўнае Мсцісл.

МІ́ГАМ, *прысл.* Мігам, у адзін момант. *Пыдажджы, я мігам зьбегыю — адна ныга тут, а другая там.* Дзеражна Касцюк.

МІГА́ЦЬ, *дзеясл.* Мігаць. *У нашыга крывіля ногі кульгаюць, а вочы мігаюць.* Барысавічы Клім.

МІДЗЬВЯДЗЁНЫК, -нка, *м.* Медзведзяня. *Ахотнікі ў лясу відзілі мядзьведзіху з двумі мідзьвядзёнкымі.* Бяседавічы Хоцім.

МІДЗЮЛЯ́Н, -а, *м.* Непаваротлівы. *Мідзюлян ты, мідзюлянішча — ступіць і то ня ўмеіш па-люцку.* Вародзькава Крыч.

МІДУНІ́ЦА, -ы, *ж. бат.* Мядоўнік. *Белый цьвяток мідуніцы памыгая ат парезу.* Хвёдараўка Краснап.

МІЖ, *прыназ.* Між, паміж. *Між сыдамі быў гарод.* Слаўнае Мсцісл. *Дарога ідзець між гор.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

МІ́ЖДА, *прыназ.* Паміж. *Дзіцёнык быўтаіцца міжда рук.* Палуж Краснап.

МІ́ЖДУ, *прыназ.* Паміж. *Міжду імі раскол.* Лютня Краснап.

МІЖСО́БКУ, *прысл.* Паміж сабою. *Аб часе адпачынку вы згываарыцеся міжсобку, каб ніякае замінкі ня было.* Мсціслаў.

МІЖСО́ШША, -а, *н.* Міжсошша, адлеглацьць (прастора) паміж сохамі ў гумне. *Міжсошша ў етым гумне бальшоя.* Хвёдараўка Краснап. *Міжсошша зыклалі аўсом.* Мануйлы Краснап.

МІЗГА́, -і, *ж.* Мязга, камбій. *У вярбе мізга салодкыя. Наеўся мязгі.* Хвёдараўка Краснап.

МІ́ЗДРЫ́ЧКА, -і, *ж.* Нікчэмны, дробязь. *Ці ён чылавек? Міздрычка ён!,* Палуж Краснап.

МІЗДРЯ́, -і, *ж.* Нікчэмнасць. *Якей ён міздря!* Горкі Краснап.

МІЗІПЕРСЬЦІЦА, -ы, *ж.* Міжперсніца, нарыў паміж пальцамі, пад пазногцем. *У Куліны ны сярэднім пальцы мізіперсьціца: усю ноч ні спала — енчыла ад болі.* Гібалы Касцюк.

МІЗКА́, -і, *ж.* Мязга, камбій. *Хлопцы, ідзём мязку скабліць з бярозы.* Бяседавічы Хоцім. *Дзед аблупіў бярэзу, а дзеці абчышчалі мязку.* Гібалы Касцюк.

МІКІЛА́ІХА, -і, *ж.* Мікалаіха, жонка Мікалая. *Сяньні была ў мяне Мікілаіха.* Галоўчыцы Калінішчына.

МІКІ́ПЫР, -а, *м.* Уласнае імя Нічыпар. *Пайшоў Іваныў Мікіпыр да Зосі.* Арцёмаўка Міласл.

МІКІТА, -ы, *м.* Уласнае імя Мікіта. *Мікіта выправіўсь ны шахты.* Палуж Краснап. *Учорашнію ноч у Мікіты выцігнулі кубіл сала.* Добрае Мсцісл.

МІКОЛА, -ы, *м.* Уласнае імя Мікола. *Мікола жахнуў Мішку па мордзі.* Шчыпыў Раснян.

МІЛА, -ы, *ж. бат.* Сітнік, міліца. *Міла паходжыя ны саку. Увесь берыг речкі зарос мілою.* Хвёдараўка Краснап.

МІЛА, *прысл.* Міла, добра, прыемна. *Міла глядзець, як жыта сёліта ўсходзіць: роўнінька, гусьцінька.* Бяседавічы Хоцім.

МІЛІЦАНЕР, -а, *м.* Міліцыянер. *Чаго йта к Васілю пашоў міліцанер; знаць, усё яшчэ за сымагонку?* Бяседавічы Хоцім.

МІЛІЦЫЯ, -і, *ж.* Міліцыя. *Што вы яго забіць хочыце? Што за самаўправа! Я міліцыю гукну.* Пірагова Мсцісл.

МІЛІЦЭЯ, -і, *ж.* Міліцыя. *Міліцэя ўсё ўзяла на пірячот.* Маластоўка Краснап.

МІЛЫЙ, *прым.* Мілы, любы. *Мілы ты мой, харошы, я цябе век ні забуду.* Крычаватка Раснян. *Мамычка, мілыя, пусьці мяне, я пайду ды Ганны пагуляю троха.* Рылаўшчына Мсцісл.

МІЛЫСНА, *прысл.* Міла, люба, ветліва. *Ён мілысна пыступаіць с сваёю жонкыю, аж люба глядзець.* Слаўнае Мсцісл.

МІЛЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Міласць. *Братуля! — кажу я брату,— здзелый мілысьць, купі мне касу ны бызарі.* Арцёмаўка Міласл.

МІЛЫТА, -ы, *ж.* Мілата, любата. *Мілыта 'дна, як мой сын жыў зь нявесткый.* Гарадзец Бабр.

МІЛЬГАНУЦЬ, *дзеясл.* Мільгануць. *Мылыдня мільганула, дык усё асьвяціла.* Журбін Бялынкав.

МІЛЬКАНУЦЬ, *дзеясл.* Мелькануць. *Мільканув, як мылыдня, толькі яго і бачылі.* Кокатава Мсцісл.

МІНЁНЫ, -аў, *мн. л.* Узор на тканіне, што выткана ў чатыры ніты. *Я выткыла сабе скацірці ў мінёны, кватэркі пылучыліся выразныя, калі белькыю ныткала.* Слаўнае Мсцісл

МІНЁНЫЙ, *прым.* Колераў вясёлкі. *Лепш зывяжы ты ў касу мінёную стужку, чымся чырвоную.* Куркаўшчына Мсцісл.

МІНТУЗ, -а, *м. заал.* Мянтуз [мянёк]. *Я злавіў на вуду шчупычка і мінтуза.* Чэрыкаў. *У нашый рэчцы водзюцца мінтузы.* Слаўнае Мсцісл. *Пыймаў мінтуза.* Хвёдараўка Краснап.

МІНУЛЫЙ, *прым.* Мінулы. *Мінулый год быў зусім ніўрыджайны.* Касцюковічы. *У астатні раз я яго бачыла ў мінулым годзе.* Юшкі Мсцісл. *Мінулага ня верніш ужо, а во думай, як цяпер табе далей жыць.* Ушакі Чэрык.

МІНУТА, -ы, *ж.* Хвіліна. *Аторва ты! Сціхні ты хуць на мінуту.* Пірагова Мсцісл. *Як раньня ныстанець, дык яна робіць і робіць — мінуты ні атдыхнець.* Ушакі Чэрык.

МІНУТКА, -і, *ж.* Хвілінка. *Ну які ж зюкліві гэсты чылавек — ён жа, бач, і мінуткі ні пымаўчыць.* Ушакі Чэрык.

МІНУЎШЧЫНА, -ы, *ж.* Мінуўшчына, мінулае. *Часта я ўспамінаю мінуўшчыну — добра мы жылі з ім некалі.* Ушакі Чэрык.

МІНУЦЦА, *дзеясл.* Мінуцца, прайсці. *Сіроцкія сьлёзы дарым ні мінуцца.* Меншая Багацькаўка Мсцісл. *Мінулыся маё шчасця і нікалі ўжо ні верніцца болі.* Юркаўка Крыч.

МІНУЦЬ, *дзеясл.* Мінуць, прайсці ці праехаць міма. *Мы дыганілі іх і мінулі кыла лесу, дык яны пысьля прыедуць.* Паўлавічы Клім. *Мінай ты, Міхалка, етыя падводы ды едзь хутчэй, ато да вечыра ні даедзіш, калі так будзім ехыць.* Вітрунь Касцюк.

МІР, -у, *м.* [Мір], спакой, лад. *Раньшы, праўда, усяго було: і білісь і сварілісь, а цяпер ужу мір, лад і цішыня.* Арцёмаўка Міласл.

МІРГАНУЦЬ, *дзеясл.* Міргануць. *Есьць і вокым ні мірганець.* Хвёдараўка Краснап.

МІРЗЬЛЯВЫЙ, *прым.* Мярзлявы. *Ні дай бог якей ён мірзьлявый: толькі выйшуў на двор і ўжо замёрз.* Бяседавічы Хоцім.

МІРКУВАНЬНЯ, -я, *н.* Меркаванне. *Ніправільныя твае міркуваньня — зямлі ўсім ня хопіць.* Слаўнае Мсцісл. *Раілісь яны, раілісь, тады прішоў яшчэ 'дзін, скызаў сваё міркуваньня і зь етым ні сыгласілісь.* Арцёмаўка Міласл.

МІРКУВАЦЬ, *дзеясл.* Меркаваць. *Што там міркуваць, усё 'дно ні хвытаіць грошы.* Бяседавічы Хоцім. *Ня стоіць табе міркуваць, бярі, кылі даюць, ато іншчэ раздумыіць.* Слаўнае Мсцісл.

МІРЦЬВЯК, -а, *м.* [Мярцвяк]. *Пысьля пыхываньня мірцьвякоў спрыўляюць помінкі.* Арцёмаўка Міласл.

МІРЫЛЬНІК, -а, *м.* Той, што мірыць. *Ета наш мірыльнік: ён нас памірыў.* Журбін Бялынкав.

МІРЫЛЬНІЦА, -ы, *ж.* Тая, што мірыць. *Мірыльніца знайшлася, і бісь цябе абойдзімся.* Маластоўка Краснап.

МІРЫЦЦА, *дзеясл.* Мірыцца. *Дос біцца, дувай мірыцца.* Хоцімск.

МІСАЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад міска. *Разьбій я сваю місачку, цяпер і есьць не ў чым.* Шарэйкі Касцюк.

МІСКА, -і, *ж.* Міска. *Гынчар прыдае посуд: гаршчкі, міскі, махоткі і латкі.* Прыпечына Клім. *Налі ў міску мылыка, вазьмі скібу хлеба ды еш.* Варанёва Крыч. *Пыстаў міску ны паліцу.* Крычаватка Раснян.

МІССОБКУ, *прысл.* Паміж сабою. *Сёстры сваріліся міссобку зы ныряды.* Слаўнае Мсцісл.

МІСЬЦЮК, -а, *м.* Мастак, майстар на ўсе рукі. *Ого! Ён красьць місьцюк, што хочыш украдзець.* Горкі Краснап. *Наш Касьцюк на ўсі рукі місьцюк.* Гібалы Касцюк.

МІТАЛЯМ, *прысл.* Хутка, у момант. *Злобінскі мост міталям паклалі, як вайна стала.* Гарадзец Бабр.

МІТУЛЬГА, -і, *ж.* Мітульга, шпаркасць. *Во заіц бяжыць, як мітульга.* Куркаўшчына Мсцісл.

МІТУСІЦЦА, *дзеясл.* Мітусіцца. *У кіно блізка садзіцца нільзя — у вычах дужа мітусіцца, аж гылыва зыбалела.* Арцёмаўка Міласл.

МІТУСІЦЬ, *дзеясл.* Мітусіць. *У мяне ў вачох што-та мітусіць.* Канічы Касцюк.

МІХА́ЛКА, -і, *м.* Уласнае імя Міхалка. *Міхалка палучыў із сельсавету паперку, а што там напісана — ні рызбярэць, дужа грамытныя пісалі.* Гібалы Касцюк.

МІХАНО́Ш, -а, *м.* Рабочы ў млыне, які носіць мяхі. *Табе толькі міханошым быць.* Хвёдараўка Краснап.

МІХА́СЬ, -я, *м.* Уласнае імя Міхась. *Міхась, зрабі сяньні мольку длі Янкі.* Залькава Раснян.

МІХЕ́Й, -я, *м.* Уласнае імя Міхей. *Міхей зыклайся з бацькым, што ўдваіх за дзінь скосюць лог.* Палуж Краснап.

МІ́ЦІНГ, -а, *м.* Мітынг, сходка. *Усе нашы пайшлі на міцінг, дайжа дзед і тэй пайшоў.* Лешчынка Мсцісл.

МІЦІНГУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Мітынгаваць. *Толькі й дзела ў іх, што міцінгуваць, а штоб дзела дзелыць, дык на ета іх німа.* Мануйлы Краснап.

МІША́ЦЦА, *дзеясл.* Умешвацца. *Там білісь на вуліцы, а я ні хацеў мішацца, бачком, бачком — ды двору.* Слаўнае Мсцісл.

МІША́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Перашкаджаць. *Вілізьлі кудзеркі ў яе з-пыд хусткі ды мішаюць глядзець.* Ушакі Чэрык. *Ні нада яму мішаць, ён занят дзелум.* Бяседавічы Хоцім. 2. Араць другі раз. *Я буду мішаць, а ты зьезьдзі прывязі жыта, і адразу ж у сьвежыю зямлю засеім.* Бяседавічы Хоцім.

МІШУ́ЛІЦЦА, *дзеясл.* Памыляцца, ашукваццa. *Нада ж так мішуліцца чылавеку, раз за разым яго абмішульваюць.* Хвёдараўка Краснап.

МЛЕЧА́РНЯ, -і, *ж.* Малачарня. *У млечарні вараць сыр.* Вінаградаў Міласл.

МЛІ́ВА, -а, *н.* Мліва, меліва. *У нашым прудзі ладныя мліва — мякка муку мелюць.* Слаўнае Мсцісл.

МЛО́СНА, *прысл.* Млосна. *Млосна мне, дайця вады, ато ўпаду.* Цёмны Лес Раснян. *Зварыўся на сонцы, дык млосна стала.* Брылёўка Краснап. *Мне млосна, мусіць вырвіць.* Іванаўка Хоцім. *Дай скарэй вады, мне дужа млосна.* Сохана Мсцісл.

МЛЫН, -а, *м.* Млын. *Паедзім з табой на млын жыта малоць.* Арцёмаўка Міласл. *У нас млын, хоць і не вадзяны, прудым завуць.* Дубеец Касцюк. *Млын гэты яны разам дзержаць, ён абапольный іх.* Жэраціна Мсцісл.

МЛЯ́НА, *прысл.* Млосна. *Мне стала мляна, каб ні сырвала.* Хвёдараўка Краснап.

МЛЯ́ЎКА, *прысл.* Млява [млосна, слаба] ад гарачыні. *Дужа мляўка — сонца пячэць сільна.* Хвёдараўка Краснап. *Нешта мне сяньні так мляўка, што ні магу нічога дзелыць.* Сохана Мсцісл.

МНО́ГА, *прысл.* Многа, шмат. *Грыбоў у нас многа, як відзіш поўны кашэль нырярэш.* Белы Мох Мсцісл. *У яго грошы многа, золыта яшчэ ёсць.* Хоцімск.

МНО́ГА-ЧА́СЬЦЮ, *прысл.* Вельмі часта. *Многа-часьцю ён ходзіць адзін.* Падлуж'я Краснап.

МНО́СТВА, *прысл.* Мноства. *Як тут быў пан, дык у яго было мноства ўсякыя птушкі ў дварэ.* Лютня Мсцісл.

МО́ГІЛКІ, -лык, *мн. л.* Могілкі. *Каго гэста вязуць хуваць ны могілкі?* Ушакі Чэрык. *На могілках пахованы нашы дзяды.* Дзяніскавічы Навазыбк. *На могілкых дол кыпаюць — мабыць нехта памёр.* Азерцы Клім.

МО́ДЛА, -ы, *н.* Матавіла. *Модлым мытаюць ніткі; мытавілым рызматвыюць.* Хвёдараўка Краснап.

МО́ЖА, *пабочнае слова.* Можа быць [магчыма]. *Ён, можа, глухі і ня чуіць — крычы грамчэй.* Васілёўка Хоцім. *У яго знаць адна ныга кырачэй, што ён кульгаіць, можа яму ны вайне ета кантужыла.* Арцёмаўка Міласл.

МО́ЖНА, *прысл.* Можна. *Ад вашыга кріку адурець можна, як ваш вучыціль і выдзіржыць.* Канічы Касцюк.

МО́ЗЫК, -а і -у, *м.* 1. Мозг. *Якыву расьсеклі гылаву, аж мозык пацёк.* Хвёдараўка Краснап. *Як дам пы гылаве, дык і мозык пыцякець.* Горня Хоцім. 2. Мязга, камбій. *Мозыка ны бярозе вельмі многа.* Пухнава Раснян. *Вясною ны асіні бываіць салодкій мозык, а летум ён засыхаіць і пріврашчаіцца ў дрэва.* Бяседавічы Хоцім.

МО́КРА, *прысл.* Мокра. *Ны дваре сяньні мокра пысьля дожджу.* Журбін Бялынкав.

МО́КРЫЙ, *прым.* Мокры. *Мокрыя сяньні надвор'я.* Гарцуеўка Краснап. *Во ўвайрэў бенны — мокрый увесь стаў.* Слаўнае Мсцісл.

МОЛЬ, -і, *ж.* Моль. *Мой сырыхван паела моль нанет.* Слаўнае Мсцісл.

МО́ЛЬКА, -і, *ж.* 1. Моль. *Молька ўсю 'дзежу паела.* Хвёдараўка Краснап. 2. Малая рэч [дробязь], на якую не варта звяртаць увагі. *Ета молька, ні стоіць гуваріць прі яе.* Тур'я Краснап.

МО́МНІЦЬ, *дзеясл.* Есці, умінаць. *Сядзь за стол ды й момні паціху.* Тур'я Чэрык.

МО́РА, -а, *н.* Мора. *Вун аблоніна рысьцягнулась шырокыя, як мора.* Пірагова Мсцісл. *Вялікія ў вас тут азярыны, зусім як мора.* Мазалава Мсцісл.

МО́РАСЬ, -і, *ж.* Дробны дождж, імжака. *Ны дваре даждж вялікага німа, а йдзець нейкыя морысь.* Касцюковічы. *Ну й надвор'е сяньня: нейкыя морась, хляба!* Пірагова Мсцісл. *Морась зырядзіла на цельный дзень — сыпліць і сыпліць.* Барысавічы Клім.

МОРГ, -а, *м.* Морг, мера плошчы зямлі. *Увалока мае трыццыць маргоў.* Тур'я Чэрык. *Пасеїў морг грэчкі.* Прусіна Касцюк.

МО́РДА, -ы, *ж.* Морда, твар. *І нада ж было ёй рызмылівацъ так сваю морду.* Слаўнае Мсцісл. *Хлопчык пабіў дзяўчынцы морду.* Аўчынец Краснап. *Што ты там дзелыіш, псіныя морда, жыва аттуль убірайсь.* Бяседавічы Хоцім.

МО́РДУ НЫСТА́ЛІЦЬ. Набіць морду. *Вядома дурак, каб морду нысталіў, быў бы разумны.* Радзіонаўка Краснап.

МО́РКВА, -ы, *ж. бат.* Морква. *Дзеці павыцігалі ўсю моркву з град.* Пірагова Мсцісл. *У нас дужа хырыша сёліта і морква, і бруква, і рэпа, во толькі буракі ня дужа і капуста прыпала.* Арцёмаўка Міласл. *Мы сяньні морквы пынаелісь.* Залькава Раснян.

МО́РКУВ, -і, *ж.* Морква *У нас сёліта вырысла моркув дык пу бураку.* Бяседавічы Хоцім.

МО́РНЫЙ, *прым.* Свабодны [вольны]. *Ой, німа ў мяне морныга часу.* Хвёдараўка Краснап.

МО́РУДНА, *прысл.* [Павольна], цяжка. *Сёньня работыцьбыло дужа морудна.* Новыя Капачы Мсцісл.

МОСТ, -а, *м.* 1. Мост, пераезд праз рэчку. *Сяляне рáдзілісь зрабіць новый мост чыріз ряку.* Паходавічы Чэрык. *Мост рызваліўсь, і грэбля разбурылась — каторый ужо год ні правілі.* Кокатава Мсцісл. 2. Падлога ў хаце. *У старой хаце ў мяне зямля, а ў новай мост пыкладзен.* Пірагова Мсцісл. *Трэба к сьвяту мост памыць у хаце.* Смолькаўская Буда Бялынкав. *Пыдмяці мост, ато ў хаце брудна.* Асавец Крыч.

МО́ТУЗ, -а, *м.* 1. Тоненькі паясок, што прышываецца да фартуха для завязвання. *Прышыла к хвартуху мотуз, ды вузкі дужа.* Ельня Краснап. *У маім хвартуху доўгія мотузы.* Крычаў. 2. Тонкая вяровачка, якая ўшываецца ў пояс штаноў, каб падтрымліваць іх. *У штанох пырваўся мотуз.* Машавая Бялынкав. *Рызьвяжы мотуз, штоб пыслабіць штаны.* Паўлавічы Клім.

МО́ТЫШНА, *прысл.* Моташна. *Адыдзісь, ні ныдыйдай! І бізь цябе мотышна.* Хвёдараўка Краснап.

МО́ЎЧКІ, *прысл.* Моўчкі. *Падыйшоў моўчкі, пыстыяў, нічога ні скызаў і пайшоў сабе далі.* Аўчынец Краснап.

МО́ЦНА, *прысл.* 1. Моцна, балюча. *Пуга сьцёбае кыня моцна. Крычаў.* 2. [Моцна, голасна.] *Кума моцна сьпівала песьні ны вясельлі.* Міцькаўшчына Мсцісл.

МО́ЦЫЯ, -і, *ж.* Супрага, праца ў сполку, гульня ў сполку. *Мы зь ім у моцыю гулялі ў вачко і абыгралі такі нашых супраціўнікаў.* Краснаполле.

МО́ЧА, -ы, *ж.* Дажджлівая пагода. *Сена вазілі ў мочу — ня дзіва, што загніло.* Палуж Краснап.

МО́ЧКА, -і, *ж.* 1. Раменная ці вяроўчаная пятля, якою прывязваецца пуга да пугаўя або біч да цапільна. *Я толька зымахнуўсь пугыю, дык мочка пірірвалысь, і пуга некуды пыляцела, толькі пугавьё ў руках асталысь.* Бяседавічы Хоцім. *Мочка ў цэпі пырвалысь, дык бічуком па лобе пыпала — гуза набіў на лобе.* Хвёдараўка Краснап.

МО́ШКА, -і, *ж.* Мошка. *Ой, пыдажджы! Мошка ў вока ўляцела, дыстаць нада.* Вітрунь Касцюк.

МРОК, -у, *м.* Змрок, цемната. *Такі ўжо мрок быў уночы, што вока калі.* Старына Мсцісл.

МУГУЛЁЎ, -ва, *м.* Магілёў. *Бацька зрабіў буду ныд калёсымі і паехыў у Мугулёў.* Маластоўка Краснап.

МУДЗЯ́ЎКА, -і, *ж.* Слабы, кволы чалавек. *Ета ня хлопіц, а мудзяўка — яго дзіцёнык пываліць.* Хвёдараўка Краснап.

МУДКІ́, мудык, *мн. л. бат.* Каткі. *Мудкі — серанькія, кысматыя; яны растуць у жыце, і калі сажнуць жыта, то нáрашня пускаюць туды авечак. Авечкі любяць мудкі.* Пірагова Мсцісл.

МУДРУВА́НЬНЯ, -я, *н.* Мудраванне. *Біз хітрываньня і мудруваньня етый чылавек ні абыйдзіцца.* Сохана Мсцісл.

МУДРЫ́ЛА, -ы, *м.* і *ж.* Мудрагель. *Нашто тут быць мудрылый, калі можна папросту зрабіць.* Палуж Краснап.

МУДРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* [Мудраваць], мудрагеліць, выдумляць. *Чаго тут доўга мудрыць, бяры адзін зы аглоблі, а другея пысыбляйця, дык і выцігнім воз ны дарогу.* Асавец Крыч.

МУДРЭ́Ц, -а, *м.* Хітрун. *Іш, якей мудрэц знайшоўсь! Бачылі такога мудрыца?* Азерцы Клім.

МУЖ, -а, *м.* Муж. *Мыя дычка з мужам распусьцілыся.* Пірагова Мсцісл. *Алёна мужа кінула, а пылюбоўніка сабе нышла.* Пухнава Расниян.

МУЖЧЫНА, -ы, *м.* Мужчына. *На зэдлі кыла столу сядзелі мужчыны, а ны лаўкі — жанчыны.* Слаўнае Мсцісл.

МУЖЫ́К, -а, *м.* 1. Муж. *І іна і мужык яе — абоя любяць выпіць.* Старае Сяло Мсцісл. *Мужык яе зьвярнуўсь з вайны, а ў яе ўжо другей тут ёсьць, і дзеці ўжо ад етыга.* Баеўка Крыч. 2. Мужчына, селянін. *Ачмурелый мужык гыняўсь за ўсімі па полю.* Слаўнае Мсцісл.

МУЖЫ́ЧЫЙ, *прым.* Мужчынскі, сялянскі. *Ён у нас хлопіц рухманы: і ны бабскую і на мужычую работу гразд.* Смолькаўская Буда Бялынкав.

МУЗДАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* [Ударыць], выцяць. *Як мuзданyў пы вычах, дык і вока выбіў.* Кокатава Мсцісл.

МУЗДА́ЦЬ, *дзеясл.* Кілзаць. *Стаў ён кыня муздаць, ды ні знаіць, ці зьдзець аброць ці ны аброць ныдзіваць, а конь зыдзіраіць гылаву, ня хочыць удзіла браць у рот.* Арцёмаўка Міласл. *Кызаў табе муздаць кыня трэба, ато во — упудзіўся і калёсы пылымаў.* Добрае Мсцісл.

МУЗДЭ́ЧКА, -і, *ж.* Аброць [з цуглямі]. *У муздэчцы ёсьць жалезныя частка, што муздаіць кыня, і гэтыя частка завецца грузьдзілым.* Сохана Мсцісл.

МУ́ЗЫКА, -і, *ж.* Мýзыка. *Ны свадзьбу прішла іграць мýзыка.* Слаўнае Мсцісл.

МУЗЫ́КА, -і, *м.* Музы́ка, скрыпач. *Музыка граіць на скрыпкі, а барыбаншчык б'ець у бубін.* Гусарка Клім.

МУЗЫКА́ЛЬНЫЙ, *прым.* Музычны. *Якіх толькі музыкальных струмінтыў німа на сьвеці — і дудкі, і скрыпкі, і гармоні, і ўсякія.* Азерцы Клім.

МУЗЬДЗЕ́ЧКА, -і, *ж.* Аброць [з цуглямі]. *Каню нада надзець музьдзечку.* Палуж Краснап. *У мяне 'броць з музьдзечкай: замуздаю кыня і паеду, куды хочыш.* Дубеец Касцюк.

МУ́КА, -і, *ж.* Мýка, мучэнне. *Хіба ж ета жысць — мýка 'дна: ні жывём, а мучымся.* Ушакі Чэрык. *Дзяды ня зналі бяды, а ўнукі зажылі мýкі* (прыгаворка). Вінаградаў Міласл.

МУКА́, -і, *ж.* Мукá. *Сёліта зярно буйныя — мука будзіць добрыя і хлеб белый.* Ушакі Чэрык. *Дужа грубыя асеўкі з етый*

*мукі, знаць, жыта сырое было.* Пірагова Мсцісл.

МУ́ЛІР, -а, *м.* Муляр. *У мулір а і прылады ўсяго, што кельня, ды мылаток, ды яшчэ вінкіль з шнурым.* Паходавічы Чэрык.

МУ́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Муляць. *У мяне так муліць бот, што ні магу хадзіць.* Слаўнае Мсцісл. *Нада палку ны мятлу абчысьціць, штоб у руку ня муліла.* Сапрынавічы Мсцісл.

МУ́ЛКА, *прысл.* Мулка, цвёрда. *Мякка сьцеліць, ды мулка спаць.* Сохана Мсцісл.

МУЛЬГА́ЎКА, -і, *ж.* Дробязь; маласільны, слабы. *Ты мульгаўка проці мяне.* Хвёдараўка Краснап.

МУЛЬТ, -у, *м.* Мультан. *Нішто сабе, слаўны мульт, насіцца доўга будзіць.* Добрае Мсцісл. *Купі ты сабе цёплыга мульту на кохту.* Слаўнае Мсцісл.

МУ́ЛЬТЫВЫЙ, *прым.* Мультановы. *Вулька пашыла сабе мультывую кохту.* Забычанне Касцюк. *Мне пашылі мультывую кохту.* Бяседавічы Хоцім.

МУ́ЛЯР, -а, *м.* Муляр. *Ці ні ведаіце вы дзе муляра, каб памог дом канчыць.* Ушакі Чэрык.

МУМА́К, -а, *м.* Нарост або кап на дубовых пнях. *Мумак добря гарыць, хоць і ны вадзе.* Турэйск Краснап.

МУМА́ШКА, -і, *ж. бат.* Грыб, што расце на дрэве. *З мумашкі дзелыюць цэр* (губка, трут). Хвёдараўка Краснап.

МУ́МЛІЦЬ, *дзеясл.* Есці бяззубым ротам. *Наш дзед бяззубы — ён хлеб мумлія.* Хвёдараўка Краснап.

МУНДЗІР, -а, *м.* 1. Мундзір. *Мундзіры раньшы чыноўнікі насілі.* Забычанне Касцюк. 2. Лушпіна бульбы. *Ці будзім абіраць картошку ны вячэру, ці ў мундзіро́х зварым.* Жалезніца Крыч.

МУНДЗЯРЫ́, -аў, *мн. л.* Бульба, звараная ў лушпінах. *Ны абед былі адны мундзяры.* Палуж Краснап.

МУ́РАВА, -ы, *ж.* Мурава, трава. *Увесь двор муравый зарос.* Хвёдараўка Краснап.

МУРАВЕ́ЙНІК, -а, *м.* Мурашнік. *Рыскыпалі муравейнік і бросілі туды зьмяю.* Машавая Бялынкав.

МУРАВЕ́ЙНІКАВЫЙ, *прым.* Мурашнікавы. *У лесі мы бачылі вялізную муравейнікавую кучу — у чылавека ўвышкі.* Слабада Раснян.

МУ́РАЎКА, -і, *ж.* Памянш. ад мурава. *Глядзі-ка, ікая посьлі дождж у мураўка на вуліцы зялёныя.* Слаўнае Мсцісл.

МУРА́ШКА, -і, *ж.* Мурашка. *Мурашка ташчыць кызяўку ў муравейнікавую кучу.* Слаўнае Мсцісл.

МУРЗА́ТЫЙ, *прым.* Мурзаты, з запэцканым тварам. *Ны лаўцы сядзеў мурзатый хлопчык, а лі яго мухі — роім.* Гарбавічы Касцюк.

МУРЛА́СТЫЙ, *прым.* Мурласты [таўстаморды]. *У нас быў мурластый кот, дык бувала ні 'днаго гырлача ат яго ні схаваіш — все дно найдзець і паесьць сьмітану.* Бяседавічы Хоцім.

МУРЛА́ТА, -ы, *ж.* Верхні вянец у зрубе хаты. *Пыклалі ўжо мурлаты, столь будуць насьцілаць.* Хвёдараўка Краснап. *У нашый хаце вельмі тонкія мурлаты.* Тур'я Чэрык.

МУРЛА́ТЫЙ, *прым.* Мурлаты, таўстаморды. *Ён, як кот мурлатый і ніпуваротлій, як мядзьведзь.* Бяседавічы Хоцім.

МУРЛО́, -а, *н.* Мурло, тоўстая морда. *Як дзьвіну табе ў мурло, што ні ўстаіш на месьці.* Лешчынка Мсцісл. *Глядзі ны яго, мурло як рызгыдываў.* Хвёдараўка Краснап.

МУРО́ЎКА, -і, *ж.* [Мурава], трава, травіца. *Тыкая ладныя муроўка была лі хаты, і пысядзець было хоріша, дык сьвіньні ўсю парілі.* Карма-Пайкі Краснап.

МУРЦО́ЎКА, -і, *ж.* Страва з [цёртага] канаплянага семя, вады, хлеба, солі і алею. *Мурцоўка ўжо гатова, ідзіця есьць.* Мсціслаў.

МУРЫ́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* [Цягаць тудысюды]. *Торбый увесь век мурыжыць плечы. Мурыжый-мурыжый луг, а намурыжый казе ны раз зьесьці.* Хвёдараўка Краснап.

МУС, -а і -у, *м.* [Прыму́с], няволя. *Ні хацеў бы ісьці, але мус кажыць.* Маластоўка Краснап.

МУСІЦЬ, *дзеясл.* 1. Мець неабходнасць. *Я мушу сяньня кончыць вылачыць, і покуль ні зывылачу — двору ні паеду.* Вітрунь Касцюк. 2. Магчы. *Ня мусю іціць — пыдгінаюцца ногі.* Хвёдараўка Краснап.

МУ́СІЦЬ, пабочнае слова. Мусіць, мабыць. *А ён, мусіць, так і ня прыдзець ды мяне.* Лешчынка Мсцісл. *Ён, мусіць, зыстаўся ў карчме той.* Паходавічы Чэрык. *Ты, мусіць, зайдзеш за мной.* Гарманава Мсцісл.

МУ́СКУЛЫ, -аў, *мн. л.* Мускулы. *У яго на руках мускулы, як клубкі якія, так і ходзюць.* Аўчынец Краснап.

МУТРЭ́НА, *прысл.* Непрыемна. *Рядніну ткаць вельмі мутрэна.* Юркаўка Крыч.

МУ́ТЫРНА, *прысл.* [Прыкра, тошна], непрыемна [не па сабе]. *Мутырна слухыць жвакі дурылы етыга.* Палуж Краснап. *Мне сёньня так мутырна, што ня ведыю, што рабіць.* Горкі. *Было дужа мутырна спрыўляцца аднаму з етый працый, алі кой-як справіўся.* Сохана Мсцісл.

МУХА, -і, *ж.* Муха. *Я ня буду есьць стыга мылыка — муха пупала ў міску.* Дубровіцы Клім. *Ідзі спаць у клець, ато ў хаці табе мухі ні дадуць заснуць.* Смолькаўская Буда Бялынкав.

МУХАМО́Р, -а, *м. бат.* Мухамор. *Німа спасеньня ат мух, я ўжу і мухаморый ставіла, нічога ні пымыгаіць — роім целым так і гудуць у хаці.* Арцёмаўка Міласл.

МУ́ХТА, -ы, *ж.* Муфта. *Мухту закруці добря, штоб у дарозі ні аткруцілысь.* Краснаполле.

МУЦЬ, -і, *ж.* Муць, неспакой. *Во тыкая муць нышла на серца, ня выцірпіць!* Слаўнае Мсцісл.

МУЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Муціць. *Нешта ў гылаве муціць, аж у вачох цёмна стала.* Паўлавічы Клім.

МУЧА́НКА, -і, *ж.* Мачанка. *Мама, зьдзелый сяньні ды ладык мучанку, сала ўжу ныдаела.* Хвёдараўка Краснап.

МУЧА́НЫЙ, *прым.* Мучны. *Трэба вытрусіць мяшкі, ато дужа мучаныя.* Касцюковічы.

МУЧЭ́НЬНЯ, -я, *н.* Мучэнне, мука. *Зыстаўся сірыта на мучэньня.* Слаўнае Мсцісл.

МУШКА́Т, -а, *м. бат.* Мушкат (хатняя кветка). *Палі ты мушкат, ато ён саўсім зывяў.* Бяседавічы Хоцім.

МУШКЕ́Т, -а, *м.* 1. Самаробны пісталет. *Тата, зьдзелый мне мушкет, такі, як у Сымона — во добра стрыляіць.* Зоры Чэрык. *Громка бье твой мушкет.* Баеўка Крыч. 2. *бат.* Бузіна. *У нас лі гумна расьцець куст мушкету, во добра зь яго дзелыць дудычкі.* Студзянец Касцюк.

МУ́ШТРА, -ы, *ж.* Муштра. *Нашто етыя муштры, ці ня можыш ты паціху вывісьць кыня і запрэгчы, за што яго біць?* Бабынічы Мсцісл.

МУШТРУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Муштраваць. *Ці бачыў ты, як муштруюць сылдат?* Кокатава Мсцісл.

МУШЧЫ́НА, -ы, *м.* Мужчына. *Ці ты ня ведыіш гэтай бахуркі — яна ж чэпіцца да кождыга мушчыны.* Ушакі Чэрык.

МШЭНЬ, -я, *м.* Імшэнь, пограб, зроблены на моху. *Куры ходзюць ля мшэня.* Восаў Краснап. *Лубка ляжыць у мшэні, падзі ды вазьмі.* Палуж Краснап.

МЫГАЛЕ́ЙКА, -і, *ж.* Кісет. *Дычка пашыла мыгалейку на тыбак.* Цівецкая Краснап.

МЫГІЛЁЎ, -ва, *м.* Магілёў. *Янку павязьлі ў Мыгілёў у больніцу — зьбязуміў ён.* Радзілёў Краснап.

МЫЖА́РА, -ы, *ж.* Мажара [воз, павозка з драбінамі]. *Ныклалі ны мыжару сена ўровінь з драбінымі.* Парадзіна Мсцісл. *Зыпряжы кыня ў мыжару, трэба сена вазіць.* Палуж Краснап.

МЫЗГАЛО́МКА, -і, *ж.* Цяжкая задача [галаваломка]. *Ета ні зыдача, а ныстыяшчыя мызгаломка: ніяк ні прідумыю, як яе ряшыць.* Бяседавічы Хоцім.

МЫЗГЫВА́ТЫЙ, *прым.* [Мазгавіты], разумны, цямкі. *Іван мызгыватэй хлапец.* Маластоўка Краснап.

МЫЗДРА́, -ы, *ж.* Наздра. *Іш, мыздры раздуў.* Хвёдараўка Краснап.

МЫЙДА́Н, -а, *м.* Месца, дзе гналі дзёгаць. *Коні пасуцца кылы мыйдана.* Горкі Краснап.

МЫЙСТРІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Майстраваць. *Дос табе там мыйстріваць, ужу ж цёмна, заўтрі дадзелыіш свой капыл.* Бяседавічы Хоцім.

МЫКА́Р, -а, *м.* Уласнае імя Макар. *Халупа бедныга Мыкара зусім урысла ў зямлю.* Лешчынка Мсцісл.

МЫКАЦЁР, -тра, *м.* Макацёр. *Баба купіла мыкыцёр.* Маластоўка Краснап.

МЫ́КАЦЦА, *дзеясл.* Кідацца туды-сюды. *На судзе злодзій выкыўся, мыкыўся, ды ня змог выкруціцца.* Палуж Краснап.

МЫ́КАЦЬ, *дзеясл.* Часаць лён на грэбень і потым яго скручваць у мычкі. *Дай мне лён, нада мычкі мыкаць, ато я пасьледнію спряла.* Арцёмаўка Міласл. *Баба мыкыла мычкі, а я пряла.* Вінаградаў Міласл.

МЫКА́ЦЬ, *дзеясл.* Мачаць. *Мыкай ладкі ў сьмітану.* Слабада Расняп.

МЫКРЯ́НКА, -і, *ж. заал.* Макрыца [макруха]. *У хаці сырысьць, дайжа мыкрянкі зывялісь.* Горкі Краснап.

МЫ́ЛА, -а, *н.* Мыла. *Ну што гэта ў вас за крвма — мыла і таго німа!* Ушакі Чэрык.

МЫЛАДЗЕ́НІЦ, -нца, *м.* Хвароба, прыпадак. *Яго схапіў мыладзеніц.* Мядзьвёдаўка Краснап.

МЫЛАДЗЕ́Ц, -дца, *м.* Маладзец. *Во мыладзец, якій ты здыгадлівый, усё адно адгыдаў!* Пірагова Мсцісл. *Мыладзец ты ў мяне, што й гыварыць.* Вербеж Чэрык.

МЫЛАДЗІ́К, -а, *м.* Маладзік, малады месяц [вятох]. *Скора пычануцца месяшныя ночы, пытаму што мыладзік ужу ныстаў.* Арцёмаўка Міласл. *Ужо мыладзік ныстаў.* Рылаўшчына Мсцісл.

МЫЛАДЗІ́ЦА, -ы, *ж.* Маладзіца, маладая замужка [замужняя жанчына]. *Яна ўжо мыладзіца, а ні дзяўчына.* Гусарка Клім. *А ўчора была я дзявіцыю,* ‖ *А сягоньня стала мыладзіцыю.* З нар. песні, М. Г. 35.

МЫЛАДЗЬБА́, -ы, *ж.* Малацьба. *Мыладзьба йдзець, дык бічукі толькі ляскыюць.* Слаўнае Мсцісл.

МЫЛАДУ́ХА, -і, *ж.* Маладуха, маладая жанчына. *Кум ажаніў свайго сына і харошую мыладуху ўзяў, дык цяпер люба к яму ў хату зайціць.* Бяседавічы Хоцім. *Выцірашка тая ў аднэй мыладухі мужыка адбіла, а як кінуў, дык іна к другому пыдкацілысь.* Арцёмаўка Міласл.

МЫЛАДЫ́Й, *прым.* 1. Малады. *Лянька ты, ікея мыладэя абабычкі, толькі зь зямлі вылізьлі.* Зарэчча Мсцісл. *Асот — калючыя трыва. Калі яе ня выпылаць мыладую, тады проста нельга жаць.* Пірагова Мсцісл. 2. Малады, жаніх. *Мыладэй з мыладою паехылі запісывацца ў сельсавет.* Сохана Мсцісл.

МЫЛАЖО́НСЬКЫЙ, *прым.* Прыналежны маладому мужу. *Мылажонськыя рыдня.* Лютня Краснап.

МЫЛАКО́, -а, *н.* Малако. *Елі мылако, тады запілі пыстыялкый.* Восаў Краснап. *Сяньні наша красуля луччы пад'ела, тык і болі мылыка дыла.* Бяседавічы Хоцім.

МЫЛАСІ́ЛЬНЫЙ, *прым.* Маласільны, слабы. *Ён бальнэй і зусім мыласільный, пряма пы хаці прайдзець, дык ужу заморіцца.* Арцёмаўка Міласл.

МЫЛАТО́К, -тка, *м.* Малаток. *Адбі верхнію дошку мылатком.* Мсціслаў.

МЫЛАХО́ЛЬНЫЙ, *прым.* Не ў поўным розуме. *Мылахольный чылавек чаго ня ўздумыя.* Маластоўка Краснап.

МЫЛАЦІ́ЛКА, -і, *ж.* Малатарня. *Салома з-пыд мылацілкі — рыгыза нейкыя, яе ніяк ні складзеш у стог.* Галічы Міласл.

МЫЛАЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Малаціць. *Сяньні, заўтрі і пыслязаўтря будзім мылаціць.* Слаўнае Мсцісл. *Мылацілі жыта ў пяць цапоў.* Забычанне Касцюк.

МЫЛДЫВА́НКА, -і, *ж.* Наметка, галаўная павязка. *Яна носіць мылдыванку.* Хвёдараўка Краснап.

МЫЛЕ́НСТВА, -а, *н.* Маленства. *Ад мыленства сьвету ні бачу: спычатку статык гыняў, а потым служыць пашоў.* Паўлавічы Клім. *З мыленства мне прышлось пайсці служыць.* Сохана Мсцісл.

МЫЛЕЦ, -льца́, м. Суглінак. *Зімля ў нас — самы мылец, жоўтыя.* Хвёдараўка Краснап.

МЫЛІЗЫНКА, -і, ж. Ласун, пераборлівы ў ядзе. *Сынок мой — мылізынка, абы што ня будзя есьці.* Палуж Краснап.

МЫЛІЦЦА, дзеясл. Вагацца, быць у нерашучасці [нерашуча намервацца]. *Сусед мыліўся, мыліўся ды пазычыў-ткі хлеба.* Палуж Краснап.

МЫЛІЦЬ, дзеясл. Мыліць, намыльваць. *Узілася мыліць плацьця, а потым мыць на речку пайдзе́.* Каробчына Мсцісл.

МЫЛКА, -і, ж. Мылка, ручка вясла. *Добрыю мылку ты зьдзелыў у вясло.* Вербеж Чэрык. *Трэба к вяслу зрабіць мылку.* Тур'я Чэрык.

МЫЛЫДАЯ, прым. Маладая, нявеста. *Мылыдая ны вясельлі плакыла.* Іванаўка Хоцім. *Мыладэй з мыладою паехылі ў сельсавет запісацца.* Ганнаўка Клім.

МЫЛЫДНЯ, -і, ж. Маланка, бліскавіца. *Гром як ударыць, мылыдня блісьніць, дык усё відна, як дождж ідзець.* Арцёмаўка Міласл. *Мыладнёю спаліла гумно.* Горкі Краснап. *Гром грыміць, і блішчыць мылыдня.* Кокатава Мсцісл.

МЫЛЫТАРКА, -і, ж. Малатарня. *Купіў сабе мылытарку.* Хвёдараўка Краснап. *У сайхозі ўсё малоцяць мылытаркаю.* Азерцы Клім.

МЫЛЫЧАЙНІК, -а, м. 1. бат. Малачай. *У нашым гародзе вельмі многа мылычайніку расьцець.* Хвёдараўка Краснап. 2. Малокі ў рыбы. *У етый рыбы многа мылычайніку.* Там жа.

МЫЛЬГВА, -ы, ж. Малеча, дзеці. *Мыльгва ета шарохыіцца пыд ыгамі, садзіцісь вы за стол, січас есьць нясу.* Гусарка Клім.

МЫЛЬНЯНКА, -і, ж. бат. Мыльнік, мыльнянка. *Дзіравенськія дзеці любяць зьбіраць у іржышчы мыльнянкі, потым труць іх, і палучаецца пена, як ат мыла.* Пірагова Мсцісл. *Мыльнянкі нарвем ды пайдзём ногі мыць.* Машавая Бялынкав.

МЫЛЮПАЦІНЬКІЙ, прым. Малюсенькі. *Мылюпаценькей, мылюпаценькей радзіўсь у яе дзіцёнык.* Ушакі Чэрык.

МЫЛЯЎКА, -і, ж. Маляўка, дробязь. *Усякыя мыляўка нос свой суець, куды ня просяць.* Палуж Краснап.

МЫНА, -ы, ж. Мана, хлусня. *Ні рызьбярэш у етым дзелі, дзе тут мына, а дзе ісьціна.* Стары Дзедзін Міласл.

МЫНТАЧКА, -і, ж. Мянтушка, драўляная дошчачка з насечкамі, у якія набіваецца мокры пясок для вастрэння касы ў сенакос. *Дзе мыя мынтачка? Трэба пумынтачыць касу.* Хвёдараўка Краснап.

МЫРАСІЦЬ, дзеясл. [Імжэць], ісці вельмі дробнаму, як праз сіта, дажджу. *Дожджык целый дзень мырасіць і мырасіць.* Гусарка Клім.

МЫРАЦЦА, дзеясл. Марацца, забруджвацца. *Пашыла сабе кубывый хвартух; цёмный луччы — ні мыраецца.* Парадзіна Мсцісл.

МЫРАЦЬ, дзеясл. Мараць, пэцкаць. *Чаго ты выляісься ны масту? Толькі надзела чыстую кашулю, а ты ізноў мыраіш.* Асавец Крыч.

МЫРДУВАНЬНЯ, -я, н. Мардаванне, мучэнне, непрыемнасць. *Сяньня я зайшоў на йгрышча ў дзярэўню, дык ты думаіш там путныя танцы, гульні? Адно мырдуваньня.* Слаўнае Мсцісл.

МЫРДЫВАЦЦА, дзеясл. Мардавацца, мучыцца. *Я з возым адзін мырдываўсь, мырдываўсь, чуць пыдняў.* Парадзіна Мсцісл.

МЫРЗЯНКА, -і, ж. Маразянка, лубок ці кошык з намарожаным на дно пластом лёду для коўзання з горкі. *Зьдзелыў я сабе мырзянку з лубкі, во будзіць ладна кытацца з гары.* Татаршчына Мсцісл.

МЫСІК, -а, м. Насок, завостраны канец. *Зламіў мысік у ножыка. Боты ў яго з доўгімі мысікамі.* Хвёдараўка Краснап.

МЫТ, -а, м. Панос. *Прыняў мяне мыт, дык чыста выпылыскаў.* Слабада Расням. *Мыт мыя начыста.* Хвёдараўка Краснап. *Дзіцёнак наеўся зеліні, ну яго і прыняў мыт.* Слаўнае Мсцісл.

МЫТАВІЛА, -а, н. Матавіла, прылада матаць маткі. *Куды яно годна гэта мытавіла, яно толькі ніткі рвець.* Тур'я Чэрык. *Вазьмі мытавіла і змытай вось гэтыя віраціны.* Татаршчына Мсцісл.

МЫТАЛЫГА, -і, м. і ж. Маталыга, жулік. *Ці ты ня ведыіш, якей ён мыталыга?* Хвёдараўка Краснап.

МЫТАЦЦА, дзеясл. [Матляцца], калыхацца. *Вішынька на дрэві мытаіцца.* Маластоўка Краснап.

МЫТАЦЬ, дзеясл. Матаць, намотваць. *Замест мытавіла іна мытала ніткі ны два канцы стыла.* Касперка Міласл. *Удзень мне нітку ў юрок, ато я ня віджу, а мне нада мытаць ніткі на клубок.* Слаўнае Мсцісл.

МЫТРАШЫЦЬ, дзеясл. [Імжэць], парушыць. *Дожджык мытрашыць, ііць нельга — намочыць.* Кокатава Мсцісл.

МЫЎЧАЦЬ, дзеясл. Маўчаць, *Што ж мы, дзіўчаты, будзім так сядзець і мыўчаць? Дывайця зыпяем песьню ці што.* Усцінавічы Касцюк.

МЫХАЦЬ, дзеясл. Махаць. *Як унадзіліся віраб'і ў проса, хоць махылым мыхай.* Палуж Краснап.

МЫХЛЮВАЦЦА, дзеясл. Карыстацца воляю і добрымі ўмовамі. *Красуіцца, мыхлюіцца на волі скаціна.* Хвёдараўка Краснап.

МЫЦЦА, дзеясл. Мыцца. *Маці пышла ў лазьню мыцца.* Прыпечына Касцюк. *Мы пайдзем мыцца — лазьня ўжо вытыпліна.* Лапаціна Мсцісл.

МЫЦЬ, дзеясл. Мыць. *Сяньні нада зьдзелыць лугу, будзім мыць бялізну.* Баеўка Крыч. *Мыла яна бяльлё ны рацэ ды ўвалілыся ў пролубку — чуць ні ўтапілыся.* Куравічы Мсцісл.

МЫЧКА, -і, ж. 1. бат. Сівец. *Ні ганіця кароў на пруд, там адна мычка, а мычкі каровы ні ядуць.* Хвёдараўка Краснап. 2. [Скручаная ў вяртлюг] жменя ільну, падрыхтаванага для пражы. *Нычашы мне мычак, ато я ўжо апошнію спрала.* Касперка Міласл. *Ганна спряла трі мычкі.* Гібалы Касцюк.

МЫЧЫЧКА, -і, ж. Памянш. ад мычка. *З горсьці ільну выходзіць дзьве мычычкі ўсяго, а калі лён дренный, дык толькі адна.* Бяседавічы Хоцім. *Ездь, мыя дачушка, бяз кубла,|| Чаму мне мычычкі ня скубла.* З нар. песні, М. Г. 24.

МЫЧЭЦЬ, дзеясл. Мычаць. *Нямый вырыжаў свае думкі рукамі і нешта мычэў, але яго ніхто ні рызумеў.* Слаўнае Мсцісл.

МЫШ, -ы, ж. Мыш. *У вынбары пырядкым мышэй рызьвялося.* Палуж Краснап.

МЫША, -ы, ж. Мыш. *Хлопцы спыймалі шкурцяную мышу.* Хвёдараўка Краснап.

МЫШАК, -у, м. Мыш'як, атрута. *Мышаку схапіў і памёр.* Старае Сяло Мсцісл.

МЫШАНЁНЫК, -а, м. Мышанё. *Кот спыймаў мышанёнка маліньkыга.* Маляцічы Крыч. *Мышына і маліньkій мышанёнык бегылі пы хаці.* Слаўнае Мсцісл.

МЫШАТНІК, -а, м. Каршун, што ловіць мышэй. *Мышатнік ловіць мышэй і яшчырыц.* Хвёдараўка Краснап.

МЫШКА, -і, ж. Памянш. ад мыш. *Мышка выбігла з-пыд лаўкі, а кот яе — цап і спыймаў.* Пацкава Мсцісл. *Мышка ны палічкі хварботкі ткець.* Мсціслаў.

МЫШЛЯЙ, -я, м. Цямлівы, разумны. *Ён у цябе мышляй — усё панімаіць.* Горкі Краснап.

МЫШШАК, -а, м. 1. Неядомы, ядавіты грыб. *Мышшакі — дрэнныя грыбы, іх не ядуць.* Пірагова Мсцісл. 2. бат. Гарошак, што расце ў збожжы. *У жыце многа гарошку-мышшаку.* Брылёўка Краснап.

МЫШЫНА, -ы, ж. Мыш. *У пасытку пупалыся мышына.* Слаўнае Мсцісл.

МЫШЫНЫЙ, прым. Мышыны. *Зыпліла касу, як мышыный хвост.* Іванаўка Хоцім.

МЫШЫНЫЙ ГАРОШЫК, бат. Гарошак, што расце ў збожжы. *Мышыный гарошык вырыстаіць у пашаніцы, у ячмені і калі яго ня выпалаць у свой час — ён тады коліць рукі ў час жніва.* Пірагова Мсцісл.

МЫШЫНЫЯ ЦЯПЛО. Гнілушка, што свеціцца [у цемнаце]. *Нашоў мышыныя цяпло і мыхаіць, як зыпалкай.* Хвёдараўка Краснап.

МЭРКАМЭНТЫ, -аў, мн. л. Клопаты, турботы. *Я б і гасьцей етых ні хацела, ато зь імі толькі мэркамэнты.* Куркаўшчына Мсцісл.

МЭГЛУХ, -а, м. Шматок. *Ну твыя кохта рызляцелыся ў мэтлух.* Куркаўшчына Мсцісл. *Маленькі Юзік узыбраўся ны лаўку, дыстаў сшытак і пырваў яго ў мэтлухі.* Лапаціна Мсцісл.

МЯГКА, прысл. Мякка. *Ён мягка сьцеліць, да мулка спаць.* Слабада Раснян.

МЯГКІЙ, прым. Мяккі. *З новыга жыта хлеб мягкі, пульхны такі.* Слабада Раснян. *Твыя падушка дужа мягкыя, усё роўна, як пуховыя.* Вітрунь Касцюк.

МЯДЗЬВЕДЗІК, -а, м. Памянш. ад мядзведзь. *У лесі спыймалі маліньkыга мядзьведзіка і прінеслі двору.* Тур'я Краснап.

МЯДЗЬВЕДЗІХА, -і, ж. Мядзведзіха, самка мядзведзя. *Мушчыны ў лясу відзілі мядзьведзіху з двумі мідзьвядзёнкымі.* Бяседавічы Хоцім.

МЯДЗЬВЕДЗЬ, -я, м. заал. Мядзведзь. *Насустрач яму плёўся старый лыхматы мядзьведзь.* Лешчынка Мсцісл.

МЯДЗЬВЕДЗЬКА, -і, ж. 1. заал. Мядзведка. *Пыймаў мядзьведзьку, кыпаючы бульбу.* Хвёдараўка Краснап. 2. Шчотка чысціць шкло ад лямпы, ёршык. *Пыдай-ка мне мядзьведзьку, нада пачысьціць пузырёк, ато ўжо дужа ён зыкапціўсь.* Бяседавічы Хоцім.

МЯДЗЬВЕЖЖАЯ ВУХА, бат. Дзіванна вялікая. *Мядзьвежжа вуха — дужа цьвёрдая з доўгімі карэньнямі трыва: цьвіцець ружовым цьветам.* Пірагова Мсцісл. *Ат парэзыў трэба браць мядзьвежжыя вушкі — жоўтый цьвяток ны ялывіных.* Хвёдараўка Краснап.

МЯДЗЬВІГА, -і, ж. Мядзведзіца. *Карова ў лесі атбілась ат статку — крый бог мядзьвізі пупадзець.* Маластоўка Краснап.

МЯДЖУЛІЦЬ, дзеясл. Душыць, раздушваць. *Не мяджуль ягыд у кошыку.* Палуж Краснап.

МЯДОВЫЙ, прым. Мядовы. *Я ныпікла сяньні мядовых коржыкаў.* Журбін Бялынкав.

МЯДОК, мідка, м. бат. Дзяцеліна. *Мядок ці дзятлывіна — усё роўна.* Хвёдараўка Краснап.

МЯЖА, -ы, ж. Мяжа. *Рві, дзетка, зельліка ды кідай ны мяжу.* Горня Хоцім. *Ны мяжы стыяў стоўп ціліграфнэй.* Парадзіна Мсцісл. *Сварыліся зы мяжу, ажно абкосык пакінулі.* Віхраны Мсцісл.

МЯЖДЖУЛА, -ы, ж. Няўклюдны чалавек. *Ета ж такі мяжджула — усё спусьця рукавы робіць.* Парадзіна Мсцісл. *Во ўжу мяжджула, ні паверніцца!* Слаўнае Мсцісл.

МЯКІНА, -ы, ж. Мякіна, палова. *Мякіну, такоя дабро, у дзюравым рэшаце на сундук пыставілі.* Куркаўшчына Мсцісл. *Нада каровам даць пысабна есьць, ато яны паб'юцца і вывірнуць мякіну.* Арцёмаўка Міласл.

МЯКІНЬНІЦА, -ы, ж. Ражка для мякіны. *Памый рукі там ныд мякіньніцый.* Бяседавічы Хоцім.

МЯККА, прысл. Мякка. *Пы траве ступаць мякка.* Янаўка Мсцісл.

МЯККІЙ, прым. Мяккі. *Сяньні сьнег мяккій, кулькі ляпіць добра — будзім біцца ў перапынку.* Шарэйкі Касцюк. *На етый бабкі касы ні наклепіш, бо йна мякка.* Тур'я Чэрык. *Мяккі твой сяньнік, добра спаць на ім.* Бялішчына Мсцісл.

МЯКНУЦЦА, дзеясл. Упасці [чмякнуцца]. *Ён як мякнуўся аб зямлю, дык чуць устаў.* Цівецкая Краснап.

МЯКНУЦЬ, дзеясл. Намакаць, мокнуць. *Мы нымачылі пяньку ў сажылку, ніхай мякніць.* Карма-Пайкі Краснап.

МЯКУШ, -а, м. Мякіш. *Мышы пывыілі ўвесь мякуш, адна скарынка зыстылася.* Палуж Краснап.

МЯКУШЫК, -а, м. Памянш. ад мякіш. *У бабы зубоў німа, дык іна выламывыіць толькі мякушык.* Гібалы Касцюк. *Еж, дзетка, мякушык!* Палуж Краснап.

МЯ́ЛА, -а, *н.* Рот, зяпа. *Разінь сваё мяла ды скажы, куды дзеў грошы.* Палуж Краснап.

МЯ́ЛІЦА, -ы, *ж.* Церніца, прылада церці лён. *Прынясі мяліцу, січас будзім мяць лён.* Бяседавічы Хоцім. *Добрыя твыя мяліца, ня рвець ільну ні званьня.* Рылаўшчына Мсцісл. *Кыла лазьні стаіць мяліца.* Гібалы Касцюк.

МЯ́ЛКА, -і, *ж.* Мяліца [церніца]. *Лён ужу ўвесь пымялі, нада мяльля згарнуць у вадну кучу і мялкі прыняць.* Арцёмаўка Міласл.

МЯ́ЛЬЛІЦА, -ы, *ж.* Мяліца, церніца. *Зынясі мялліцу к лазьні, будзім мяць лён.* Хвёдараўка Краснап.

МЯ́ЛЬЛЯ, -я, *н.* Мялле, пацёртыя сцяблы льну [ці пянькі]. *Мяльля нада прібраць, ато ў лазьню ня ўлезіш.* Гарманава Мсцісл. *Згарнеце мяльля ў вадну кучу і зынясіце на зыгуваліну, а мялкі нада атнесьць, у каго бралі.* Касперка Міласл.

МЯ́ЛЬНІЦА, -ы, *ж.* Мяліца [церніца]. *Нада кляшчоткі прыдзелыць у мяльніцу.* Хвёдараўка Краснап.

МЯНЁК, мінька, *м.* Мянёк [мянтуз]. *Учора я купаўся і пыймаў у пячуры мянька.* Гібалы Касцюк. *Мянёк любіць ліжаць на дне ці ў пячуру залезіць.* Зоры Чэрык.

МЯНТУ́З, -а, *м.* Мянтуз. *Міхась злавіў у рэчцы мінтуза.* Пацкава Мсцісл.

МЯНЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Мянціць, вастрыць касу мянташкай. *Твыя каса дужа мякка — часта мянціць нада.* Азерцы Клім. *Трэба ўжо мяньціць касу.* Маластоўка Краснап.

МЯРЛО́ГА, -і, *ж.* Бярлога. *Сяньня ў лесі мы знайшлі мядзьвежыю мярлогу.* Прусіна Касцюк. *Вунь з аттуля лісіца выскачыла, мабыць, там яе мярлога.* Добрае Мсцісл.

МЯРТВЕ́Ц, -а, *м.* Мярцвяк. *Ты пыбялеў ат страху, як мяртвец.* Слабада Раснян. *Мярцьвец ліжаў ны лаўцы, і мне было акропна ны яго глядзець.* Слаўнае Мсцісл.

МЯРЭ́ЧА, -ы, *ж.* Балота непралазнае [зараслі]. *У ету мярэчу ні ўвойдзіш, тут зытапіцца можна.* Навашоўкі Раснян.

МЯ́СА, -а, *н.* Мяса. *Каб тваё мяса ваўкі цігалі!* Рылаўшчына Мсцісл. *З мылаком клёцкі луччы, чым з мясым.* Слаўнае Мсцісл.

МЯ́СНЫЙ, *прым.* Мясны, з мясам. *Ні мясныга, ні солныга мне есьць нільзя.* Б. Хутары Краснап.

МЯСЬЦЕ́ЧКА, -а, *н.* 1. Мястэчка. *Нада зьезьдзіць ны мясьцечка — прыдаць лён і купіць солі.* Бяседавічы Хоцім. 2. Месца. *Дзеці пайшлі ў лес і знайшлі мясьцечка, поўнае суніц.* Лапаціна Мсцісл.

МЯСЬЦІ́НА, -ы, *ж.* Мясціна, лапіна. *Там у лесі ёсьць мясьціна, айдзе грыбы растуць.* Хвёдараўка Краснап. *Коні выелі вялікую мясьціну травы.* Гарбавічы Касцюк.

МЯСЬЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Мясціцца, усаджвацца. *Мяшчуся, мяшчуся, ніяк ні ўсядуся.* Палуж Краснап. *Што йта ты нешта ня ўмесьцісься, як курыца ны гнязьдзе.* Пухнава Раснян.

МЯТЛІ́ЦА, -ы, *ж. бат.* Мятліца. *Мятліца расьцець, як 'сыка, у балотых.* Пірагова Мсцісл.

МЯТЛУ́ШКА, -і, *ж.* Матылёк. *Ныд капустый многа мятлушык літаіць.* Касцюковічы Касцюк. *Ды й лёгка ж яна бегаіць, як мятлушка.* Гібалы Касцюк. *Дзеці прышлі на луг і сталі гыняцца зы мятлушкамі.* Лапаціна Мсцісл.

МЯТЛЮ́Г, -а, *м. бат.* Мятлюжок. *Мятлюг вырас, а жыта не.* Хвёдараўка Краснап. *Ны нашым лагу дык адзін мятлюг зырадзіў.* Бяседавічы Хоцім. *Ні нывязвый кыня на ржышчы, там толькі адзін ніядомый мятлюг зыстаўся.* Слаўнае Мсцісл.

МЯ́ЎКЫНЬНЯ, -я, *н.* Мяўканне. *Ныдаела мне каціныя мяўкыньня.* Слаўнае Мсцісл.

МЯЦЕ́ЛІЦА, -ы, *ж.* Мяцеліца. *З ранку да вечыра сыпыла мяцеліца.* Лапаціна Мсцісл. *Ны дваре мяцеліца суметы наміла, нільзя с хаты выйціць.* Дубеец Касцюк.

МЯЧ, -а, *м.* Мячык. *У мяне ёсьць мяч ныстыяшчый гумывый.* Шарэйкі Касцюк.

МЯ́ЧКА, -і, *ж.* Церніца, мяліца, прылада церці лён. *Прывязём мы лепш мячку, дык пы крайней меры хуць памнём скора.* Рылаўшчына Мсцісл.

МЯ́ЧЫК, -а, *м.* Мяч. *Бі мячыкам у вісачок.* Хвёдараўка Краснап. *У мячыка гуляюць дзеці.* Шарэйкі Касцюк.

МЯЧЭ́ЎНІК, -а, *м. бат.* Касач. *Мячэўнік ны балотых расьцець, ён усё роўна, як явыр. А йшчэ мячэўнік завуць кардоўнікым.* Хвёдараўка Краснап.

МЯША́ЦЬ, *дзеясл.* Мяшаць, араць другі раз. *Ужо пычалі мяшаць пад жыта.* Іванаўка Хоцім. *Сяньні паеду мяшаць, а заўтры пачнём сеяць.* Барысавічы Клім.

МЯШО́К, мішка́, *м.* Мяшок, мех. *Мяшок у пяць пудоў, а ён як абхапіў упол, дык адразу ны вясы пыставіў.* Мсціслаў. *Мяшок з жытым важыный.* Маравілле Касцюк.

МЯШО́НКА, -і, *ж.* Мешанка. *Я трошкі кынапель стыўкла, дык жаміркі сьвіньням у мяшонку ўсыпала.* Арцёмаўка Міласл.

МЯШО́ЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад мяшок. *Дай мне пакулля завізаць мяшочык.* Новыя Капачы Мсцісл.

МЯШУ́ЛКА, -і, *ж.* Мешалка, лапатка, якою мяшаюць цеста свінням. *Бяры мяшулку, пумішай цеста сьвіньням.* Горкі Краснап.

# Н

НА, *прыназ.* На. *На вуду тут што пыймаеш, апроч піськіжа?* Старае Сяло Мсцісл. *На етыя мэтры вялікій абмер лавышнікі дзелыюць.* Мсціслаў. *Хата стаіць на юру.* Палуж Краснап. *На ёлкі сядзіць вяёрка.* Хлышчы Мсцісл.

НА́, *часц.* На. *На табе дзіцёнка, а я пыбягу ў гарод, нарву бацьвіньня сьвіньням.* Парадзіна Мсцісл.

НААГУ́Л, *прысл.* Навогул. *Наагул ён нічога ня ведаець.* Слабада Расиян.

НААЛЕ́ІНЫЙ, *прым.* Запраўлены алеем. *Скыўрідá мала ныалеіна: бліны прістаюць.* Шумячы.

НААЛЕ́ІЦЬ, *дзеясл.* Заправіць алеем. *Мама забыла наалеіць кашу.* Палуж Краснап.

НАБГО́М, *прысл.* Набгом. *Пі ваду зь відра набгом.* Хвёдараўка Краснап. *Чырпаў, чырпаў ложкый, а тады відзіць, што ўжо мала зысталося ў місгі, дык ён міску ды набгом.* Бяседавічы Хоцім.

НАБЕЛКІ, -аў, *мн. л.* Набіліцы, аправа, у якую ўстаўляецца бёрда ў кроснах. *Укладывай бёрда ў набелкі ды пачынай ткаць.* Цівецкая Краснап.

НА́БЕЛЬ, *прысл.* Набела, дабела. *Пылатно сваё набель выбеліла.* Маластоўка Краснап.

НАБЕ́РАТКІ, -аў, *мн. л.* Набедрыкі, збруя. *На кыня надзеты набераткі.* Журбін Бялынкав.

НА́БЕРДКІ, -аў, *мн. л.* Набіліцы. *Укладывай у набердкі бёрда.* Цівецкая Краснап.

НАБІВА́ЦЦА, *дзеясл.* Набівацца, напрошвацца. *Набівацца табе сваім дабром ні стану — біз цябе купюць.* Ушакі Чэрык.

НАБІВА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Напіхаць. *Бацька зьбіраўся ў дарогу, а Ягор набіваў у пяхцерь сена.* Гібалы Касцюк. 2. Павышаць цану. *На што ты цану набіваіш? Ты ж усё роўна ня купіш.* Палуж Краснап. *Другей пыдыйшоў тургуваць, толькі я віджу, што ён ня купіць, ён толькі штоб цану набіваць.* Арцёмаўка Міласл.

НАБІ́ЛІЦЫ, -аў, *мн. л.* Набіліцы. *У набіліцах бёрда шаволіцца, ткаць няёмка.* Дуброўна.

НА́БІЛКІ, -аў, *мн. л.* Набіліцы. *Бёрда ўстыўляецца ў набілкі.* Гібалы Касцюк. *Набілкі — тое, у чым бёрда сідзяць.* Парадзіна Мсцісл. *Во зрушыны етыя набілкі: бёрда само пряма ходзіць.* Бяседавічы Хоцім. *Набілкі харошыя, і ні цяжкія і ні лёгкія; адзін раз стукніш і дужа часта тчэцца.* Слаўнае Мсцісл.

НАБІРА́ЦЬ, *дзеясл.* Набіраць, купляць [тканіну]. *Пайду набіраць сабе на плацьце.* Лапаціна Мсцісл.

НАБІ́ТЫЙ, *прым.* Накладзены, закладзены [туга напханы]. *Зыстаронкі поўна-поўным набіты хлебым.* Хвёдараўка Краснап.

НАБІ́ЦЦА, *дзеясл.* Набіцца [напрасіцца]. *Адкуль гэта табе, Вульляна, пільсьці набілысь у сьвітку?* Добрае Мсцісл.

НАБІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Накласці, [туга] напхаць. *Сяньні набілі пяць лубык аторы с асеці.* Бяседавічы Хоцім. *Яшчэ хочыш смашнага? Набіў чым-нібудзь каньдзюх, ну й добря.* Дубеец Касцюк. *Піскленык воля набіў, як камінь.* Пухнава Расиян. 2. Набіць. *На кірмашы хлопцы падвыпілі і хацелі Міколу набіць, але ён сьцямій ды скарей наўхыдыка. Нада абручы на бочку набіць, ато рассохлысь.* Шэвялёўшчына Мсцісл.

НАБО́ЖНІК, -а, *м.* Ручнік, які вешаецца над абразамі. *Нада набожнік памыць к сьвяту, ато мухі забрудзілі.* Гусарка Клім. *Павесь новы набожнік ны абразы.* Зоры Чэрык.

НАБО́Й, -я, *м.* Набойка, прылада набіваць [нацягваць] абручы на бочку. *Пыдай набой, нада абруч падмыцаваць ны кадушкі, штоб ні пыцікла.* Вародзькава Крыч.

НАБО́К, *прысл.* Набок, убок. *Чаго стаіш там, звырачывай набок!* Лешчынка Мсцісл. *Звырачывай набок, ато я з возум, а ты пырыжняком.* Бяседавічы Хоцім.

НАБО́УКНУЦЬ, *дзеясл.* Нахмурыцца, сабрацца хмарам. *На небе нешта набоўкла, пэўна січас будзіць дождж.* Куркаўшчына Мсцісл.

НАБРА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Набраць. *Набраў дроў цэлае бярэмя.* Дубеец Касцюк. *Набяры ахапку саломы і зынясі пад коні.* Старае Сяло Мсцісл. 2. [Набраць], купіць [тканіны]. *Мама, набяры мне на кохту мульту ці хоць січчыку.* Кажамякіна Краснап.

НАБРІХА́ЦЬ, *дзеясл.* Набрахаць, нагаварыць. *У вочы дык і хваліць і дыбра зычыць, а атыйдзіць і людзям усяго ныгаваріць і набрешыць ны цябе.* Арцёмаўка Міласл.

НАБРО́Д, -у, *м.* Валацуга, заходжы падазронага выгляду. *Усякі наброд шляіцца пу мясьцечку. Прывалокся к нам нейкі наброд і просіцца пірінычываць.* Палуж Краснап.

НА́БРЫДЗЬ, -і, *ж.* Наброд [валацуга]. *Ні чылавек, а набрыдзь нейкыя, скуль ён прыйшоў?* Палуж Краснап.

НАБРЫ́ДНУЦЬ, *дзеясл.* Абрыдзець, надакучыць. *Яно ўжо мне набрыдла з сваім плачым.* Васілёўка Хоцім.

НАБУ́ТЫЙ, *прым.* Абуты. *Ідзі ты: ты набуты, а я босы, дык мне ў ногі коліцца.* Азерцы Клім.

НАБУ́ЦЬ, *дзеясл.* Абуць, надзець на ногі абутак. *Добрыя лапці добра й набуць.* Белы Мох Мсцісл. *Набуй хоць гэтыя асьмёткі, усе ныга ня голыя будзіць.* Краснаполле.

НА́БЫЖНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Набожнасць. *У яго тыкая набыжнысьць, што ён, ні пірихрясціўшы, ніколі нічога ў рот ні возьміць.* Бяседавічы Хоцім.

НАБЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Набыць [прыдбаць]. *Пынас набыў летысь кілу, дык у сылдаты ні ўзялі.* Лешчынка Мсцісл.

НАБЭ́ДРІКІ, -ыў, *мн. л.* Збруя. *Пупраў каню набэдрікі: зьехылі ны адзін бок.* Хвёдараўка Краснап.

НАВАЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Навазіць. *На рум навазілі шмат бярвеньняў.* Тур'я Чэрык. *Навазіў сабе з лесу вялікую кучу хворысту.* Сохана Мсцісл.

НА́ВАР, -у, *м.* Двор для скаціны. *Мар'я, схадзі ў навар, пыглядзі карову.* Паходавічы Чэрык.

НАВА́Р, -у, *м.* Навар. *Зь етыга мяса навару ніякыга німа — худое, ці што.* Вітрунь Касцюк.

НАВАРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Наварыць, зварыць. *Наварыў крупені з салам і грэцкай кашы.* Пірагова Мсцісл. *Ну й наварыла ты сёньня груцы: ложкай ні паверніш!* Тур'я Чэрык. *Навары мне, мама, крупені з яшных круп з бульбаю.* Парадзіна Мсцісл.

НАВАТ, *прысл.* Нават. *Кышача мята дужа ваніць, яе нават сьвіньні ні ядуць.* Пірагова Мсцісл.

НАВЕ́ДЧЫК, -а, *м.* Наведвальнік. *Нам такіх наведчыкаў ня трэба — кацісь, аткуль прышоў.* Палуж Краснап.

НАВЕ́ДЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Наведвацца. *Нешта Міхась дужа часта ды цябе пычаў наведывыцца.* Паўлавічы Клім.

НАВЕ́ДЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Наведваць, адведваць. *Іна хадзіла ў другую дзярэўню — сваю дачку наведывыла.* Арцёмаўка Міласл.

НАВЕ́К, *прысл.* Навекі, на ўсё жыццё. *Абязьвечыў ты мяне навек.* Хвёдараўка Краснап.

НАВЕ́РНА, *прысл.* Напэўна. *Ён з горыду, наверна, заедзіць к дзядзьку майму ў Палавіньнік.* Пірагова Мсцісл. *Ён, наверна, ужу ні прыедзіць сяньні — ужу позна; пы ўсяму відна, што зыначуіць там.* Арцёмаўка Міласл.

НАВЕ́РСЕ, *прысл.* Наверсе. *Сабранія будзець наверсе ў зале.* Пірагова Мсцісл. *Схывайсь пыд ваду, адны толькі бурдылькі наверсі пашлі.* Парадзіна Мсцісл.

НАВЕ́С, -а, *м.* Павець. *Калёсы стыяць пыд навесым.* Кісялёва Буда Краснап.

НАВЕ́Я, -і, *ж.* Гурба снегу. *Ны дарозі такея навеі, што крій бог — праехыць нільзя ў полі.* Маластоўка Краснап.

НА́ВІК, *прысл.* Навекі, на ўсё жыццё. *Хата згарела, конь здох, ня выбіцца яму цяперь — навік старцым зыстанецца.* Арцёмаўка Міласл.

НАВІ́ЛЬНІК, -а, *м.* Чаранок, ручка віл. *Ня дзіва, што навільнік зламіўся: зысіліў зразу паўвоза гною.* Бяседавічы Хоцім.

НАВІ́НА, -ы, *ж.* Навіна. *Прыляцела пы дзярэўні навіна — сылдат бяруць.* Слаўнае Мсцісл.

НАВІНЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Навінціць, зашрубаваць. *Навінці паўпрыцу, ато аслабла.* Хвёдараўка Краснап.

НАВІ́ЦЬ, *дзеясл.* Навіць, наматаць. *Памажы мне навіць кросны ны навой.* Баеўка Крыч. *Дуня, нада навіць пылатно, ато дрэнна ткаць.* Хлышчы Мсцісл.

НАВО́Д, -у, *м.* Навучэнне, падвучванне. *Хлапец сам ні стаў ба злодзіім, тут быў чый-та навод.* Палуж Краснап.

НАВО́Й, -я, *м.* Навой. *У кроснах навой яшчэ тоўсты — ткаць яшчэ многа.* Гібалы Касцюк. *Навой і набілкі пылажы ў клеці ны пакот.* Бяседавічы Хоцім. *А-я-яй, колькі яшчэ ны навою нітык! Многа яшчэ ткаць нада.* Слаўнае Мсцісл.

НАВО́ЙЧЫК, -а, *м.* Памянш. ад навой. *Ны навойчык накручваюць пылатно.* Парадзіна Мсцісл.

НАВО́РЫШЧА, -а, *н.* Нечаканае [выпадковае] спатканне. *Пы наворышчу зь ёй пызнаёміўся.* Людагошч Мсцісл.

НАВО́РЫШЧЫМ, *прысл.* Выпадкам. *Наворышчым нырваўсь ны выйка.* Хвёдараўка Краснап.

НАВО́ШТА, *прысл.* Навошта, нашто. *Навошта табе столькі фарбы, што ты будзіш фарбываць?* Ушакі Чэрык.

НАВУ́ХРЫЦЬ, *дзеясл.* Намуштраваць. *Хацеў навухрыць кыня, штоб ён аднаго ківу быяўся.* Арцёмаўка Міласл.

НАВУ́ЧКА, -і, *ж.* 1. Навука. *Ета табе, бабушка, навучка — ня йдзі ўзамуж за ўнучка.* Трубільня Краснап. 2. Вывучка. *Прайшоў добрыю навучку, харошым спіцыялістым стаў.* Краснаполле.

НАВУЧЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Навучыцца. *Іна яшчэ ні саўсім хырашо прядзець, дык я ёй даю прясьць ачоскі, пакуль навучыцца.* Бяседавічы Хоцім.

НАВУЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Навучыць. *Навучы мяне, братка, як ета дзелаць.* Касцюковічы. *Навучыце босьць бугыя, тады ня пройдзіш за ім па вуліцы.* Добрае Мсцісл.

НАВЫ́ГЛЫД, *прысл.* Наадварот. *Я табе так кажу, а ты ўсё навыглыд дзелыіш.* Хвёдараўка Краснап.

НАВЫЛЁТ, *прысл.* Скрозь, праз. *Навылёт прайшоў лес.* Хвёдараўка Краснап.

НА́ВЫЛКА, -і, *ж.* Навалка. *У мяне ёсьць толькі адна навылка ны падушку, думыю іішчэ хоць адну пашыць.* Слаўнае Мсцісл. *Надзень ны падушку чыстую навылку.* Хвёдараўка Краснап.

НА́ВЫЛЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад навылка. *Пашыла сабе трі навылычкі ны падушкі.* Пірагова Мсцісл.

НАВЫ́ПЕРАДКІ, *прысл.* Навыперадкі. *Дывай бегаць навыперадкі. Будзем прясьць навыперадкі.* Гібалы Касцюк.

НА́ВЫР, *прысл.* Пад карову, даіць карову [і на двор]. *Ці хадзіла ты, Таічка, навыр?* Канава II Хоцім.

НА́ВЫТ, *прысл.* Нават. *З дзецтва мне помняцца навыт самыя мелачы.* Лешчынка Мсцісл.

НАВЬ, -і, *ж.* Навіна, новы ўраджай. *Пазычця мне гарнцы два круп да наві.* Пірагова Мсцісл.

НАГА́, -і, *ж.* Нага. *Нагу абмуліў ботым, вот і хрымаю.* Мсціслаў. *Гэты капыл якраз ны маю нагу.* Тур'я Чэрык.

НА́ГДЫСЬ, *прысл.* Нядаўна. *Нагдысь мы былі ў гысьцях у майго бацькі.* Бяседавічы Хоцім.

НАГДЫШНІЙ, *прым.* Нядаўні, учарашні. *Ета нагдышні блін, што ўчора пысьля гасьцей астаўся.* Бяседавічы Хоцім.

НАГЛЕ, *прысл.* Вельмі. *Нагле важкі камень.* Мсціслаў.

НА́ГЛІЦЬ, *дзеясл.* Нахабна хлусіць. *Ён наглiць мне ў ліцо.* Слаўнае Мсцісл.

НАГРАБЦІ́ [нагрэ́сьць], *дзеясл.* Награбці. *Награблі дзьве капешкі сена.* Хвёдараўка Краснап.

НАГРІМАДЖЭ́НЬНЕ, -я, *н.* Нагрувашчванне. *Цесна ў хаце ад ныгрімаджэньня ніпатребных тут усілякіх услончыкыў, кадушык — павыкінь іх у сенцы.* Мануйлы Краснап.

НАГРІМАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Нагрувасціць. *Нагрімадзілі тут усякыга лымачча, што ні пралезьць.* Шумячы.

НАГРЭ́ЦЦА, *дзеясл.* Нагрэцца. *Сядзь на пріпік, печка гыряча, дык січас нагреішся.* Бяседавічы Хоцім.

НАГРЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Нагрэць. *Нагрэла вару два чыгуны, нада жлукціць бяльлё.* Лютня Краснап. *Пыстаў кызанец на кылянок ды нагрэй чаю.* Горкі.

НАГУТАЦЦА, *дзеясл.* Нагушкацца. *Гуталіся, пакуль нагуталіся.* Палуж Краснап.

НАД, *прыназ.* Над. *Над варам пара йдзе тыкая, што аж рукі ня ўтрымаць.* Барысевічы Клім. *Над сіратою — бог с калітою.* Прыказка. Камароўка Крыч.

НАДА, *прысл.* Трэба. *Нада ўзяць мукі.* Маластоўка Краснап. *Нада зьдзелыць каромісіл, насіць ваду ны плічах.* Слаўнае Мсцісл.

НАДАЕСЬЦЬ, *дзеясл.* Надаесці, надакучыць. *Надаела сьвякрова Зоські.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Кінь ты ўжо вякыць, ато надаела слухаць. Твой выласень ужо і мне надаеў, ідзі ты к доктару, хай ён табе яго разрэжа і выцісніць.* Касцюковічы.

НАДАКУЧЫЦЬ, *дзеясл.* Надакучыць. *Ну цябе саўсім! Атлуміў ты маю галовухну, надакучыў!* Пірагова Мсцісл.

НАДАРАЖАЦЦА, *дзеясл.* Здзекавацца. *Яна мне кожны раз надаражаецца.* Юшкавічы Расня.

НАДАСЬ, *прысл.* Нядаўна. *Надась толькі ён прыехыў з горыду.* Хоцімск. *Надась я бачыў Пятруся: ён ішоў з Кузьмой па тэй вуліцы.* Крычаў.

НАДВОР'Я, -я, *н.* Надвор'е, пагода. *Сёньня мокрае надвор'я.* Паходавічы Чэрык. *Ну й надвор'я сяньня! Так і хлешчыць дождж.* Пірагова Мсцісл. *Нада пыцяплей абвізаца, ато халодныя надвор'я сяньні.* Бяседавічы Хоцім.

НАД'ЕХЫЦЬ, *дзеясл.* Наехаць. *Куды ты над'ехыў, ці ў цябе вочы пувылазілі, ні бачыш, што тут воз стаіць?* Палуж Краснап.

НАДЖЫГЫЦЬ, *дзеясл.* Наджыгаць, наджгаць, пакусаць. *Мурашкі так наджыгылі, што аж усё цела пузырямі стала.* Бяседавічы Хоцім.

НАДЗЁЖА, -ы, *ж.* 1. Уласнае імя Надзея. *Надзёжа, схадзі зы вадой.* Маластоўка Краснап. 2. Надзея, спадзяванне. *Німа надзёжы, каб ён астаўся жывэй.* Брылёўка Краснап.

НАДЗЕЖНІК, -а, *м.* Абрус, якім пакрываюць дзяжу. *Хлеб падыйшоў, і надзежнік утапіўсь у цеста.* Бяседавічы Хоцім.

НАДЗЁЖНЫСЦЬ, -і, *ж.* Надзейнасць. *У мяне тыкая надзёжнысьць ны цябе была, што я ўжу думаў буду з грашмі — толькі зайці ды ўзяць іх.* Бяседавічы Хоцім.

НАДЗЕЛЫЦЬ, *дзеясл.* Нарабіць. *Агу, хлопчык, што ты тут надзелыў?* Слаўнае Мсцісл. *Нада вецьця аблымаць ды надзелыць венікаў.* Палуж Краснап. *Надзелыйка ў бырану кляцоў, ато нескылькі вываліпысь, дык дренна скарадзіць.* Слаўнае Мсцісл.

НАДЗЕТЫЙ, *прым.* Адзеты, апрануты. *Нейкій кывалер ідзець з барышніяю і надзет, як пан якей.* Арцёмаўка Міласл. *На кыня была надзета замуздка.* Пухнава Расня. *Панчохі надзеты, ацтаецца бацінкі надзець.* Кажамякіна Краснап.

НАДЗЕЦЬ, *дзеясл.* Надзець, апрануць. *Надзень гэты брыль, ён табе надта йдзе.* Царковішча Касцюк. *Бацька надзеў кажух і пашоў у гумно.* Шумячы. *Пятро надзеў лапаць ны капыл і пычаў падплітаць.* Гібалы Касцюк.

НАДЗЕЯ, -і, *ж.* Надзея. *Надзеі на выздраўленьня німа, усі ўжо срэдзьства паспрабывыныя.* Каробчына Мсцісл.

НАДЗІВАЦЬ, *дзеясл.* Надзяваць, апранаць. *Пыра ўжо маркелку надзіваць — халодна.* Барысавічы Клім.

НАДЗЬВІГАЦЦА, *дзеясл.* Насоўвацца. *З захыду надзьвігаіцца туча.* Сохана Мсцісл.

НАДЗЬМУЦЬ, *дзеясл.* Надзьмуць. *Зачыні дзьверы шчытна, ато сьнегу надзьме ў пуню.* Парадзіна Мсцісл.

НАДОВЕЧЫ, надовічы, *прысл.* Нядаўна. *Надовечы я бачыла Праскоўю.* Галоўчыцы Клім. *Надовічы быў бальшэй дождж.* Халдзееўка Хоцім. *Надовічы бацька быў у горадзе і купіў мне плацьця.* Зоры Чэрык. *Надовічы пагода была вельмі цёплая, а раптым зыхылыдала.* Куркавічы Мсцісл.

НАДОВІШНІЙ, *прым.* Ранейшы, зроблены нядаўна. *Ета надовішній блін, што пысьля гасьцей астаўся.* Бяседавічы Хоцім.

НАДОВЯЧЫ, *прысл.* Нядаўна. *Надовячы я хадзіла на вечыр.* Гусарка Клім. *Надовячы была бура.* Паходавічы Чэрык.

НАДОІЧЫ, надойчы, *прысл.* Нядаўна. *Надоічы хадзіла я ў лес у ягыды — шмат ягыд было.* Маластоўка Краснап. *Надойчы я яго здаровыга бачыў, а сёньня ўжо й памёр!* Старае Сяло Мсцісл.

НАДОЎГА, *прысл.* Надоўга, на доўгі час. *Дрывалом еты калі ўдаря, дык надоўга зыстанецца.* Хвёдараўка Краснап.

НАДОЯЧЫ, *прысл.* Нядаўна. *Надоячы была бура і шмат шкоды нырабіла.* Гарманава Мсцісл.

НАДПІСЫК, -ска, *м.* Адрас на пісьме, надпіс. *Надрюкуй ты надпісык на канверьці, ато сын плоха надрюкуіць, на пошці ні рызьбяруць ішчэ.* Цівецкая Краснап.

НАДРУБ, -а, *м.* Надруб, засечка. *На дзерыві нехта надруб зьдзелыў.* Журбін Бялынкав. *У вокарках кыла надрубу касьці зывяліся чэрві.* Пірагова Мсцісл.

НАДРУБЫНЫЙ, *прым.* Надрубаны, падсечаны. *Надрубыныя дрэва ўсохла.* Сапрынавічы Мсцісл.

НАДРЫВАЦЦА, *дзеясл.* Надрывацца, праз сілу працаваць. *Я ня буду табе надрывацца над етыю работыю, ніхай іна прываліцца.* Азерцы Клім.

НАДСЕЧЫНЫЙ, *прым.* Надсечаны. *Надсечыныя яблыня ўсохла.* Пірагова Мсцісл.

НАДТА, *прысл.* Надта, вельмі. *Надта худа яго быдлё.* Касцюковічы. *Надта добра пашыта твыя юпка.* Клімавічы. *Іцьвіна ў цябе ў саніх надта слаба, глядзі — ні даедзіш.* Ташна Клім.

НАДУДЛІЦЦА, *дзеясл.* Напіцца праз меру, насмактацца. *Надудліўсь сымагону, а січас ляжыць, як мёртвэй.* Стары Дзедзін Міласл. *Надудліўсь бярозывіку, што аж у жываце булькыя.* Хвёдараўка Краснап.

НАДУМ, -у, *м.* Мысленнае рашэнне. *Ніхто ні гуварїў хлапцу дзелыць етыга — сваім надумым зрабіў.* Маластоўка Краснап.

НАДШЫТЫЙ, *прым.* Надшыты, надточаны. *Рубашка твыя надшытыя ў пыстань-*

*ні, ні хапіла матэрыі, ці што?* Азерцы Клім.

НАДШЫЎКА, -і, *ж.* Надшыўка, надточка. *У тваёй сароцы, як у жаночай, надшыўка зьдзелына.* Краснаполле.

НАДЫБ, -і, *ж.* Патрэба. *Нашто ета мне, зусім біз надыбі.* Палуж Краснап.

НАДЫСЬ, *прысл.* Нядаўна, гэтымі днямі. *Надысь у Жэрацінe жэрабца ўкралі.* Пірагова Мсцісл. *Надысь Алена гыварыла мне, што іна выходзіць замуж, а зы каго — ні скызала.* Палуж Краснап.

НАЕЗЬДЗІЦЦА, *дзеясл.* Наездзіцца. *Нам сяньні прішлось наезьдзіцца; коні саўсім прісталі, чуць двору дыцягнуліся — хоць ты ў лесе начуй.* Бяседавічы Хоцім.

НАЁРЗЫЦЦА, *дзеясл.* Нападскокваць. *Ён на мне наёрзыўся — будзіць.* Палуж Краснап.

НАЕСЦА, *дзеясл.* Наесціся. *Пыдажджы, ні сьпішай так, дай чылавеку наесца.* Дзеражна Касцюк. *Наеўся дурніц, аж кепска стала.* Вародзькава. Крыч.

НАЕХЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Наехаць. *Чуць ні наехыў на дзіцёнка.* Забычанне Касцюк. 2. Панаехаць. *Ны бызар што гаршчочнікыў наехала — страх!* Хвёдараўка Краснап.

НАЖАЦЬ, *дзеясл.* Нажаць. *Пайду нажну пырніка, ато карові даць німа чаго. Сярод лесу, ны лагчыні — трыва па поіс, там і нажну мех.* Парадзіна Мсцісл.

НАЖАЦЬ, *дзеясл.* Націснуць. *Нажмеш адзін понаж — адзін ніт падыміцца, а другей спусьціцца, а нажмеш другей — ныдварот.* Парадзіна Мсцісл.

НАЖНІЦЫ, -ніц, *мн. л.* Ножніцы. *Узяў сы стыла нажніцы і дывай абрус резыць.* Ушакі Чэрык.

НАЖЫЦЬ, *дзеясл.* Нажыць. *Ня ён нажыў ета дабро і ні яму спажываць яго: прышло махым і пайдзець прахым.* Арцёмаўка Міласл.

НАЖЭНЦЫ, -аў, *мн. л.* Ножніцы. *Сёмка ў кыпіраціві пукупіў нажэнцы зу рубля.* Тур'я Краснап.

НАЗВАЦЬ, *дзеясл.* Назваць. *Мінулы год можна назваць бязьлецьцем.* Касцюковічы.

НАЗВОДНІЧЫЦЬ, *дзеясл.* Нагаварыць, распусціць плёткі. *Скушна табе, табе нада назводнічыць, штоб людзі сваріліcь.* Арцёмаўка Міласл.

НАЗІРКЫМ, *прысл.* Назіркам. *Ты ні пыдывай віду, што хочыш яго высьлідзіць, а так, здаліку, ды назіркым усьлед, усьлед, каб ён цябе ня ўвідзіў.* Слаўнае Мсцісл. *Назіркым пайшоў за ім.* Хвёдараўка Краснап.

НА-ЗНАЕШ-НА, *пабочнае слова.* Ведаеш, разумееш. *Куліна, на-знаеш-на, якая хітрая баба.* Палуж Краснап.

НАЗОЙНА, *прысл.* Назольна [назойліва, навязліва]. *Сыбака так назойна прістываў і кідыўся, каб укусіць, што чуць я абыраніўся.* Слаўнае Мсцісл.

НАЗОЛА, -ы, *ж.* Назола, навязлівы чалавек. *Во назола хлопіц, ніяк ні атчэпісься ат яго.* Маластоўка Краснап. *Госьціікі мае, назола мыя, ці не паедзіця ўжо самі сы двыра.* Слаўнае Мсцісл.

НАЗОЎКА, -і, *ж.* Мянушка. *Яго зваць Дзямідым, а Цырькун — ета назоўка: усі яны цырькуны.* Залачэўка Краснап.

НАЗЫВАЦЦА, *дзеясл.* Называцца. *Калі ў раку ўпыдаіць ручаёк ці речка, то ета места называецца ў нас «вусьцень».* Касцюковічы.

НАЗЬБІРАЦЬ, *дзеясл.* Назбіраць. *Параска, назьбірай ты, дачушка, пайдзі хрып'я сьвіньням.* Малюшын Краснап. *Я назьбірала макотрык масла.* Белы Камень Бялынкав.

НАЙБОГУ, *прысл.* Яйбогу, дадушы, папраўдзе. *Сідыр ня верыць мне, а я, найбогу, ня быў там.* Палуж Краснап.

НАІГРІВАЦЬ, *дзеясл.* Найграваць. *Што ты тут адзін упацёмку наігріваеш?* Пірагова Мсцісл.

НАЙДА, -ы, *ж.* Нахабная непаседлівая назола. *Найда ты, табе ўсё прыстанішча німа.* Хвёдараўка Краснап.

НАЙЗНОЎ, *прысл.* Зноў, нанава. *Пыдрядчык зыгыдаў, каб найзноў усё пірядзелылі. Шлёмка пашыў боты, што найзноў трэба пірядзелываць.* Палуж Краснап.

НАІКЫТАЦЦА, *дзеясл.* Настагнацца, наенчыцца. *Як быў у мяне выласень на руце, во наікыталыся я!* Пірагова Мсцісл.

НАЙМАЦЦА, *дзеясл.* Наймацца. *У нас тут ёсьць адзін бязьдзельный, паспробуй, можа і наймецца, пыгывары з ім.* Пірагова Мсцісл.

НАЙСТРЫНЫЙ, *прым.* Навострaны. *Нож ні найстрыный саўсім ня рэжыць, трэба яго найстрыць.* Палуж Краснап. *Толькі што найстрыныя сякера, а ён узяў ды замысколіў.* Пухнава Раснян.

НАЙСТРЫЦЬ, *дзеясл.* Навастрыць. *Найстры нож, ато саўсім ні рэжыць.* Забычанне Касцюк.

НАЙЦІ, *дзеясл.* 1. Найсці. *Найдзець глум ны гылаву, дык сядзіць лі выкна і плачыць.* Горня Хоцім. *Ны мяне як якое аклумленьне найшло — нічогінькі ні ўцямлю.* Парадзіна Мсцісл. *Былачынка найшла нівлікыя, а дождж вунь які лінуў.* Хвёдараўка Краснап. 2. Знайсці. *Найшлі грошы ды зытаілі.* Б. Хутары Краснап. *Во найшоў сабе бразготку.* Палуж Краснап. *Увесь сьвет аблахыў, а шчасьця ні найшоў.* Слаўнае Мсцісл.

НАКАЛІСЬНІЦЫ, -ніц, *мн. л.* Наклесніцы, намаразні, плашкі, што насаджваюцца на капылы для звязкі. *Пыдлажы ны накалісьніцы палку, ато раздужжа зломіцца.* Бяседавічы Хоцім.

НАКАНЕЦ, *прысл.* Урэшце. *Наканец злавілі злодзея.* Міцькаўшчына Мсцісл.

НАКАНУНЕ, *прысл.* Перад, напярэдадні. *Куцьця варіцца накануне раждзіства, Новыга году і крашчэньня.* Кісялёва Буда Краснап.

НАКАРМІЦЬ, *дзеясл.* Накарміць. *Іна ж тыкая жалысьлівыя — кыта хворыга і то накорміць.* Парадзіна Мсцісл.

НАКАРЭНЬ, *прысл.* Укорань, дачыста, назусім. *Накарэнь зьбілі жыта.* Хвёдараўка Краснап.

НАКАСАЦЦА, *дзеясл.* Навязацца, прычапіцца. *Чаго ты накасаўсь ны маю галаву? Адчапісь!* Пірагова Мсцісл.

НАКАТ, -а, *м.* След ад колаў, воза. *Накат пашоў пы пыласе — нехта ж тут ехаў.* Хвёдараўка Краснап.

НАКІНУЦЦА, *дзеясл.* Накінуцца. *Ён накінуўсь ны мяне с кулыкамі.* Слаўнае Мсцісл.

НАКІНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Накінуць. *Накінь хоць вот еты рубяк ад дажджу.* Пацкава Мсцісл. *Накінуў ны сябе вопрытку ад дажджу і пашоў.* Бель Мсцісл. 2. Набавіць, павялічыць. *Кыпірацыя цяпер цэны на ўсё накінула.* Трубільня Краснап.

НАКІП, -у, *м.* Накіп. *У крупені многа накіпу.* Хвёдараўка Краснап.

НАКІЎ, -ва, *м.* Ківок, намёк. *Адзін накіў разумея.* Хвёдараўка Краснап.

НАКЛАДЗЕНЫЙ, *прым.* Накладзены. *Вышкі поўны накладзены выкам.* Пухнава Раснян. *Поўныя пуня накладзена сенам.* Халдзееўка Хоцім.

НАКЛАСЬЦЬ, *дзеясл.* Накласці. *Накладзі сена ў пяхцер!* Рожава Мсцісл. *Наклаў кашы міску коптарам.* Гібалы Касцюк. *Наклаў быў сена поўны трысьцен, але ж усё скарміў.* Сапрынавічы Мсцісл.

НАКЛЕЦКА, -і, *ж.* Наклесніца [намарзня]. *Нада наклецку ўзьдзець ны капылы.* Хвёдараўка Краснап. *У сані ны капылы набіваюцца наклецкі, якія ўдзержваюць вызьзя.* Хвёдараўка Краснап.

НАКЛІПАЦЬ, *дзеясл.* 1. Накляпаць. *Я ні магу добря касу накліпаць — абізацілна лыпатух ныганю.* Асавец Клім. 2. Набіць, аддубасіць. *Каб ён быў разумны, тады б накліпаў ёй, во і добря было б.* Радзіонаўка Мсцісл.

НАКЛІСКА, -і, *ж.* Наклесніца, намарзня. *Рыскалолась накліска ны сынях.* Ташна Клім. *Трэба ўзьбіць накліску, ато сані саўсім пылымаюцца.* Крычаў.

НАКЛЫПАЦІЦЦА, *дзеясл.* Наклапаціцца. *Наклыпаціłыся я за цэлый дзень, ажно ногі ломяць.* Пірагова Мсцісл.

НАКРУТКА, -і, *ж.* Накрутка, палка, якою закручваюць вяроўку, каб тужэй увязаць воз. *Адзяні накруткі і накручывый вазы пакрепчы, ато сянні ўхабы вялікія ны дарозе.* Бяседавічы Хоцім. *Увізаўшы воз дроў вяроўкыю, мы яшчэ вяроўку накруцілі накруткыю.* Гібалы Касцюк.

НАКРЫЦЦА, *дзеясл.* Накрыцца. *Накрыйся дзяругай.* Камароўка Крыч. *Дзеці пыляглі ны масту і накрылісь дзяругыю.* Малюшын Краснап.

НАКРЫЦЬ, *дзеясл.* Накрыць. *Цяпер пагода стаіць ладныя, дык нада б хату накрыць, а тут другая работа прысьпела.* Пахадавічы Чэрык. *Накрый стол скацірсткай.* Хвёдараўка Краснап. *Дайце мне якую фанціну накрыць ліцо ад мух.* Куркаўшчына Мсцісл.

НАКРЫШЫЦЬ, *дзеясл.* Накрышыць. *Мае дзеці любяць рулі: накрышуць сабе і ядуць.* Пірагова Мсцісл.

НАКУКІ, -ыў, *мн. л.* Кукаванне зязюлі. *Дзеўка лічыла накукі зязюліны і толькі пяць гадоў нылічыла.* Б. Хутары Краснап.

НАКЫЛІСЬНІЦЫ, -аў, *мн. л.* [Наклесніцы], намарзні. *У тых сынях разсохлісь накылісьніцы і павыіхалі капылы.* Бяседавічы Хоцім.

НАЛАВІЦЬ, *дзеясл.* Налавіць. *Я налавіў шмат ласкуткоў.* Тур'я Чэрык. *Абынач налавілі шмат рыбы.* Сохана Мсцісл.

НАЛАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Наладзіць. *Занясі бочку да бондара, няхай ён яе наладзіць.* Касцюковічы.

НАЛАЖЫЦЬ, *дзеясл.* Накласці. *Налажы ў сяньнік сена.* Кажамякіна Краснап. *Налажылі яны ў крупінь усякіх прысмакаў: перцу, цыбулі, лісту.* Ушакі Чэрык. *Сена налажылі толькі адзін трысьцен.* Машавая Бялынкав.

НАЛЕВА, *прысл.* Налева. *Ідзі пряма, тады налева будзіць прыкавулык і там яго хата.* Бяседавічы Хоцім.

НАЛЕГАНЬНЯ, -я, *н.* Напружанне. *Ат пыстыяннага налеганьня на свае жылы ў працы бацька парваў сваё здароўе.* Сохана Мсцісл.

НАЛЕЖЫЦЬ, *дзеясл.* Належаць. *Гэты конь ні твой, чужы і табе ён ні належыць.* Ушакі Чэрык.

НАЛЕЗЬЦЬ, *дзеясл.* Налезці. *І нада ж налезьць столькі сьвіней у гарод.* Мануйлы Краснап. *У вершу налезла быгата рыбы.* Хвёдараўка Краснап.

НАЛЕМБІК, -а, *м.* Слабіцельнае. *Зьясі дзісятык яец, дык, як налембік, пірягоніць і нічога німа.* Палуж Краснап.

НАЛЕПКІ, *прысл.* Кідком у рукі. *Кідай мячык налепкі.* Хвёдараўка Краснап.

НАЛЕСЬНІКІ, -аў, *мн. л.* Тоненькія блінчыкі з пшанічнай мукі. *Чаго ты дыжыдаеш? Налесьнікаў яшчэ ні ныпяклі дліцябе, еш вось бульбу з гурком.* Гусарка Клім. *Чаго ні ясі, што табе налесьнікыў даць?* Брылёўка Краснап.

НАЛЕЦЬЦЯ, -я, *н.* Наступны год. *Бочку пшаніцы дзед блюдзець к налецьцю.* Гібалы Касцюк. *Схавай гэту свёклу ды налецьця — патрэбна будзе вясною.* Добрае Мсцісл.

НАЛІМ, -а, *м.* [Мянтуз], мянёк. *Я спыймаў сяньні наліма.* Мсціслаў.

НАЛІТЫЙ, *прым.* Наліты. *Кадушка наліта вадою.* Мышкі Раснян.

НАЛІЎКА, -і, *ж.* Хатняя кветка, аганёк. *У вас у вазоне наліўка ўжо расьцьвіла.* Журбін Бялынкав. *Наліўка прыгожа цьвіцець.* Хвёдараўка Краснап.

НАЛІХА, *прысл.* Ад сілы, добра калі. *Наліха, калі ў мяне будзе трыццыць пудоў бульбы.* Хвёдараўка Краснап.

НАЛІЦЬ, *дзеясл.* Наліць. *Налі ў кухлік мылыка.* Палуж Краснап. *Ільля наліў алею поўную пляшку.* Гібалы Касцюк.

НАЛІШНІКІ, -аў, *мн. л.* 1. [Налічнікі], шаляванне асады на вокнах з надворнага боку. *У яго хаці налішнікі пыхвырбываныя ў зялёную хварбу — пызнаеш.* Машавая Бялынкав. *Зьвізаў налішнікі, можна ўстыўляць у сьцены.* Хвёдараўка Краснап. 2. Аканіцы з разьбою. *Зачыні пайдзі налішнікі, штоб ні відна было з вуліцы ў хату.* Там жа.

НАЛОП, -у, *м.* Нечаканасць. *Аткуль ета ты пыд'явіўсь з налопу?* Кокатава Мсцісл.

НАЛОПЫМ, *прысл.* Налопам, нечакана, нахабна. *Нылящелі налопым і ўсё зыбралі, бандзісты етыя.* Хлышчы Мсцісл.

НАЛЮБА, *прысл.* Наўпадобу. *Выбірай касу, якую хочыш, налюба.* Маластоўка Краснап.

НАМАГЧЫСЯ [наможца], *дзеясл.* Наважыцца, прымусіць сябе. *Брат такі намогся схадзіць у больніцу, а ні хацеў.* Маластоўка Краснап.

НАМАРЗЬНІ, -яў, *мн. л.* [Наклесніцы], намарзні, плашкі з дзіркамі, якія надзяваюцца на капылы ў санях для замацавання іх. *Намарзьні зламай — і капыльля рассыплюцца.* Горкі Аршанск.

НАМАТАЦЬ, *дзеясл.* Наматаць. *Намотай-ка некылькі цэвак, бо ў мяне іх мала зысталысь.* Хлышчы Мсцісл. *Наматала тры маткі пряжы.* Сохана Мсцісл.

НАМАЦЫЦЬ, *дзеясл.* Намацаць. *Мацыў, мацыў і ні намацыў зыпалкі ўпоцімку.* Хвёдараўка Краснап.

НАМЕРВАЦЦА, *дзеясл.* Намервацца, хацець, мець намер. *Намервыўся сяньні ў горыд паехыць, ды, мабыць, ні ўдасца, дождж ні пірістаець.* Дубровіцы Клім.

НАМЕРЫЦЦА, *дзеясл.* Намерыцца, нацэліцца, захацець. *Куды ета ты намерыўся йіці?* Асмолавічы Мсцісл. *Ён ужо намерыўся кіим і хацеў яго ўдарыць.* Вітрунь Касцюк.

НАМЁТ, -а, *м.* Кошык на рыбу. *Бяры з сабою і намёт на рыбу, бо калі зловім, дык куды яе дзенем.* Тур'я Чэрык.

НАМЁТКА, -і, *ж.* 1. Тонкае белае палатно, з якога робяць галаўныя ўборы. *Выткала сабе тры губкі намёткі.* Барысавічы Клім. 2. Галаўны ўбор — кавалак палатна перашыты на канцах чырвонымі ніткамі. *Добрыя ў етый бабы ны гылаве намётка.* Машавая Бялынкав. *Мыя маці яшчэ і цяпер носіць намётку.* Шумячы.

НАМЁТКА, -і, *ж.* Заметка, допіс. *Прышліце вы нам наметкі ў сьценгазету.* Пірагова Мсцісл.

НАМІНКА, -і, *ж.* Напамінка. *Зьдзелый мне аб етым намінку, ато я магу й забыць.* Тур'я Краснап.

НАМІТКА, -і, *ж.* Намётка. *Раньшы замужкі насілі намітκі, а січас ужо мала хто носіць.* Лютня Краснап.

НАМКНУЦЦА, *дзеясл.* Спаткнуцца. *Намкнулась на пень і нагу зьвіхнула.* Куркаўшчына Мсцісл.

НАМОЎ, -ву, *м.* Намова. *Яму можа пасобіць намоў ны вадзе ат шалёныя сыбакі.* Слаўнае Мсцісл.

НАМУЛ, -а, *м.* Намулянае месца. *Намуліў сабе нагу, ішоўшы, і січас баліць намул, што стыяць ні магу.* Высокі Бор Краснап.

НАМУЛЕНЫЙ, *прым.* Намуляны. *Чым ета ў цябе на руцэ намулена?* Пірагова Мсцісл.

НАМУЛІЦЬ, *дзеясл.* Намуляць. *У етых баціңках можна намуліць ногі — дужа яны цесны.* Арцёмаўка Міласл.

НАМУРЫЖЫЦЬ, *дзеясл.* Нацерці, намуляць. *Торбый намурыжыў плечы.* Хвёдараўка Краснап.

НАМУЧЫЦЦА, *дзеясл.* Намучыцца, нацярпецца. *Намучыўсь я за дзень, бегыючы зы каровымі.* Мануйлы Краснап.

НАМЫРЗЬНІ, -яў, *мн. л.* Намарзні [наклесніцы]. *Зьдзелый намырзьні к саням.* Хвёдараўка Краснап.

НАМЯРЗАЦЬ, *дзеясл.* Намярзаць. *Завесь вакно матыю, каб ні намярзала ряма.* Гібалы Касцюк.

НАМЯШАЦЬ, *дзеясл.* Намяшаць. *Намяшалі мы сьвіньням поўную шайку храп'я, а яны ні ядуць яго.* Пірагова Мсцісл.

НАНЁТ, *прысл.* Зусім [наніщто]. *Як узяў яго кылаціць, дык пыкылаціў нанет.* Палуж Краснап. *Сатлеў нанет мой сырыхван ат сырысьці, а можа моль паела.* Слаўнае Мсцісл.

НАНІЦЬ, *дзеясл.* Наняць. *Трэба наніць касцоў, самі ні ўправімся.* Палуж Краснап.

НАНЫЧ, *прысл.* Нанач. *Матка наныч зышчапіла дзьверы.* Палуж Краснап.

НАНЯЦЬ, *дзеясл.* Наняць. *Нанялі сабе фурмана ехаць ны станцыю.* Сохана Мсцісл. *Я наняў ранішніцу кароў гыняць.* Слабада Расnян.

НАПАДСІВАЦЬ, *дзеясл.* Нападсяваць. *Надта ж бузяныя грачыха: падсівала, падсівала і во сколькі нападсівала — пуды тры мо будзіць.* Сутокі Мсцісл.

НАПАЛ, *прысл.* Напалавіну, напалам. *Браты ўсю худобу пыдзялілі напал.* Палуж Краснап.

НАПАНАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Нарыхтаваць, наладзіць. *Трэба напанадзіць лямеш — мішаць скора пайдзем.* Бязводзічы Мсцісл.

НАПЕРВА, *прысл.* Спярша, спачатку, раней. *Сельсавет наперва даў паперку, а тады волысьць яшчэ была.* Палуж Краснап. *Наперва дужа ніхацелысь там жыць, а цяпер троху 'бжыўся.* Дзіснакіта Мсцісл.

НАПЕРЫДЗІ, *прысл.* Наперадзе. *Падвода с хлебым наперыдзі нас ехыла.* Маластоўка Краснап.

НАПЕЦЬ, *дзеясл.* Наспяваць. *Хацеў напець быгата, ды песінь ні знаю.* Карма-Пайкі Краснап.

НАПІВАЦЬ, *дзеясл.* Напяваць. *Мыкарь нешта напіваіць сабе пад нос, а што — ні пынясь.* Шумячы.

НАПІСАЦЬ, *дзеясл.* Напісаць. *Я ня ўправіўся гэтага напісаць.* Сапрынавічы Мсцісл. *Напісаў яму малінькую пісульку.* Сохана Мсцісл.

НАПІСАНЫЙ, *прым.* Напісаны. *Пісьмо напісына чарнілью.* Палуж Краснап.

НАПІТА, *прысл.* Насцеж. *Рашчынілі дзьверы напіта, быццам у маі.* Куркаўшчына Мсцісл. *Нашто ты рыззявіла дзьверы напіта, ны дваре такій холыд.* Слаўнае Мсцісл.

НАПІЦЦА, *дзеясл.* Напіцца. *Пыдай мне карэц вады напіцца.* Паходавічы Чэрык. *Як ныясіся добра, дык і вады нап'есься.* Камароўка Крыч. *Гарэлкі напіўся, як шавец.* Чыгрынаўка Расnян. *Дай людзям напіцца вады.* Зарэчча Мсцісл.

НАПЛОІЦЬ, *дзеясл.* Завіць і намазаць. *Во наплоіла сабе выласы Ганна, аж бліщчаць.* Маластоўка Краснап.

НАПЛЫЎ, -ву, *м.* Нанос пяску вадою. *Сёліта наплыў на лузі вялікій, дык косы скора тупяцца ад пяску.* Барысавічы Клім.

НАПОВІРКУ, *прысл.* Трымаючыся ўдвух за абодвы канцы. *Нясуць вядро вады наповірку.* Палуж Краснап. *Мы ўдваіх*

*прінясём вядро вады наповірку.* Слаўнае Мсцісл.

НАПО́Л, -а, *м.* Вялікая кадушка, выдаўбленая з кругляка. *У клеці стаіць напол з жытам.* Півецкая Краснап.

НАПО́РА, -ы, *ж.* Упарты. *Во ўжо напора нейкыя, хуць гылаву далоў, дык ны сваём пыставіць.* Слаўнае Мсцісл.

НАПРАНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Апрануцца, адзецца. *Міхась напрануўся і пашоў нейдзе.* Іванаўка Хоцім. *Напрануўся ў новыю сьвітку, дык, здаецца, пымаладзеў.* Шумячы.

НАПРАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Апрануць, надзець. *Напрані ты сваю напратку.* Кокатава Мсцісл. *Мабыць халодна сяньні, прыдзецца напрануць кажух.* Прыпёчына Касцюк.

НАПРА́СНА, *прысл.* Дарэмна. *Калі суніца красна, ня сей аўса напрасна.* Рылаўшчына Мсцісл.

НАПРА́СЬЦІ [напрасьць], *дзеясл.* Напрасці. *Я за дзень сяньні сем ручаік напрала.* Добрае Мсцісл. *Напрала цэлу ручайку, а яго ўсё няма.* Дуброўка Аршан. *Я напрала два хунты воўны.* Тур'я Чэрык.

НАПРА́ТКА, -і, *ж.* Вопратка, апратка. *Прынясі мне маю напратку.* Лабаноўка Хоцім.

НАПРАХТЫКЫВА́НЫЙ, *прым.* Напрактыкаваны. *Ты мяне етыму ня ўчы: я, брат, болі зы цябе напрахтыкываный!* Пірагова Мсцісл.

НАПРАХТЫКЫВА́ЦЦА, *дзеясл.* Напрактыкавацца. *На мылацілкі работыць нада напрахтыкывацца.* Віхраны Мсцісл.

НАПРО́СТА, *прысл.* Нацянькі, напрасткі. *Баба ні йшла дарогый, а напроста.* Палуж Краснап.

НАПРУЖЭ́НЬНЯ, -я, *н.* Натуга. *Як пыдняў воз сена, дык ат напружэньня і памёр.* Бяседавічы Хоцім.

НАПРЫ́КРЫЦЦА, *дзеясл.* Надакучыць, надаесці. *Напрыкрылася яна нам, вот проста б і вочы ні глядзелі.* Пірагова Мсцісл.

НА́ПРЫЦІ, *прысл.* Проці, супраць. *Віктар напрыці ночы пашоў двору.* Палуж Краснап.

НАПРЯНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Апрануць. *Маці напрянула маё паліто, а мне і німа чаго напрянуць цяпер, дык я ні пайду.* Лапаціна Мсцісл.

НАПРЯ́ТКА, -і, *ж.* Вопратка. *У яго няма напряткі, у чым жа ён пойдзець?* Расна. *Хлопіц узяў напрятку і павёў коні ны нашлег.* Роськаў Клім. *Сістра купіла сабе напрятку.* Шумячы.

НАПУ́ГЫЦЦА, *дзеясл.* Наесціся рэдкага, напіцца. *Мылыка халодныга напугыўсь, аж у жываце булькаціць.* Палуж Краснап.

НАПУЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Напужаць, напалохаць. *А бадай ты згарэў, во напужаў!* Старае Сяло Мсцісл. *Воўк напужаў дзяцей.* Касцюковічы.

НАПУ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Напа́даць. *За ныч напукыла многа яблык.* Кокатава Мсцісл.

НАПУСКА́ЦЬ, *дзеясл.* Напускаць. *Штукар, думаіш, дзелаіць усё, што ты бачыш? Туману на вочы напускаіць.* Гібалы Касцюк.

НАПУСЬЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Напусціцца, накінуцца, напасці. *Бацька напусьціўся на сына за кыня, што ня вывеў ны пашу.* Палуж Краснап.

НАПУСЬЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Напусціць. *Напусьцілі пойну хату дыму.* Галічы Міласл.

НАПУТРЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Навучыцца. *Ен напутрыўся надта, вучоным зьдзелыўсь.* Іванаўка Хоцім.

НА́ПЫЛ, -у, *м.* Пыл. *Тут у іх, відна, мяшкі з мукой стаялі, а цяпер толькі напыл астаўсь, нада вымясьці.* Пірагова Мсцісл.

НАПЫ́ПЫЛА́М, *прысл.* Напалам. *Як рызмахнуўся, дык карыта напыпылам рызьляцелысь, во злосьць!* Пірагова Мсцісл.

НАПЫ́ХЛІВЫЙ, *прым.* Напышлівы. *Кузьма — чылавек напыхлівый: ды яго пряма ні пыдыйдзі!* Высокі Бор Краснап.

НАПЫ́ШНЫЙ, *прым.* Напышлівы. *Якей ты напышный, з табой туварішкуваць нільзя.* Мануйлы Краснап.

НАПЭ́ЎНА, *прысл.* Напэўна. *У яго ўжо твар пачынае бабчыцца, напэўна, ён ужо стары.* Касцюковічы. *Ну й дуб ны тваей пыласе! Напэўна, ён вікавечны.* Пушкова Касцюк.

НАПЯЧЫ́ [напе́ч], *дзеясл.* Напячы, напекчы. *Напячы, мама, сяньня бубашык.* Тур'я Чэрык. *Напікла латык, ідзіця есьця.* Глупікі Крыч.

НАРАБІ́ЦЬ, *дзеясл.* Нарабіць, зрабіць. *Што ты нарабіў, абрыднік?* Сохана Мсцісл. *Апантаная ты, пралупі вочы, пыглядзі, што ты нарабіла тут!* Пірагова Мсцісл.

НАРАДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Нарадзіцца. *Толькі тагды лігла, як пачалі пярэймы браць, а праз два часы і дзіцёнык нарадзіўся.* Парадзіна Мсцісл.

НА́РАЗЬ, *прысл.* Паасобку. *Пысьля вянца два гады з жонкай жылі ўмесьці, а патым пычалі жыць наразь.* Асмолавічы Мсцісл.

НАРА́ІЦЦА, *дзеясл.* Згаварыцца. *Нараілісь ды й паехылі ўмесьці.* Гарбавічы Касцюк.

НАРА́ІЦЬ, *дзеясл.* Нараіць. *Нарай мне каня, мо дзе ведаеш добрыга.* Чарнарэчкі Расиян. *Нараілі яму дзеўку з Прыпечына нейдзе, паедзе ў сваты.* Бабынічы Мсцісл.

НА́РАСЬЦЬ, -і, *ж.* Нарасць. *На дзерыві, часам, бывае тыкая нарасьць, какшун завецца.* Вітрунь Касцюк.

НАРАЧЫ́, *дзеясл.* Напрарокаваць. *Ты як нарок мне пупасца ў бяду.* Хвёдараўка Краснап.

НАРАЧЫ́ТА, *прысл.* Назнарок. *Я нарачыта пашла гуляць, каб іна разсердзілась.* Маластоўка Краснап.

НА́РВА, -ы, *ж.* Нарыў, болька. *Ой, ікая ў яе нарва ны назе!* Брылёўка Краснап. *Нарва сморгыя — ніяк ня ўцішыцца.* Хвёдараўка Краснап.

НА́РВАМ, *прысл.* Сілком. *Я нарвам у яго грошы вырваў.* Хвёдараўка Краснап.

НАРВА́ЦЬ, *дзеясл.* Нарваць. *Нарві мне булдовык жоўтых і белых.* Зоры Чэрык. *Ат лыматы ў ныгах нада табе нырваць у возірі быдзягі і нацерць ёю ногі.* Слаўнае Мсцісл. *Нарві мне карулік у рэчкі.* Маляцічы Крыч.

НАРВІ́НЫ, -аў, *мн. л.* Жардзінкі, што кладуцца ў калёсах ці мажарах на падушкі.

*Ці пыклаў ты нарвіны ў мыжарах?* Хвёдараўка Краснап.

НАРВІШЧЫМ, *прысл.* Сілком, нахрапам. *Ён нарвішчым палез туды.* Хвёдараўка Краснап.

НАРЕЗЫЦЬ, *дзеясл.* Нарэзаць. *Нада дзёрыну нарезыць на дзедыву магілку.* Фядотава Буда Міласл.

НАРІНУЦЦА, *дзеясл.* Накінуцца, навaліцца. *Ён нарінуўся ны мяне ўсім сваім целым і дывай ціснуць.* Слаўнае Мсцісл.

НАРІЦА, -ы, *ж.* Нарыца [падскуравы нарыў у каня]. *У нашыга кыня наріца нывізалысь.* Горкі Краснап.

НАРОД, -у, *м.* Народ, людзі. *Народ уськінуўся на прыстыва і ўбэйдылі яго.* Маластоўка Краснап. *Аслыбаніўся народ ад панскый няволі.* Слаўнае Мсцісл.

НАРОЖНІК, -а, *м.* Кут у гумне каля варотаў. *Нарожнік зыкладзены ячменім.* Пухнава Расклян.

НАРОЖНІКІ, -аў, *мн. л.* Горстка [пасма] лёну, які дабаўляецца да расчэсаных на двое валасоў і акручваецца з імі наўкруг галавы ў замужніх жанчын. *Зьдзелыла іна сабе нарожнікі з лёну, надзела чапец і стала хвустку зывязываць, аж нехта стук у вакно.* Арцёмаўка Міласл.

НАРОКЫМ, *прысл.* Наўмысля, знарок. *Нарокым ета скызаў, штоб ён ні выхвыляўсь.* Маластоўка Краснап.

НАРОЎКА, -і, *ж.* Нораў, характар. *Твыя нароўка мне пыпярок горла села.* Краснаполле. *У яго ўжо тыкая нароўка.* Радзілёў Краснап.

НАРОШНА [нарошня], *прысл.* Назнарок. *Ён нарошня прышоў туды, каб прыгнаць адтуль хлапцоў.* Пірагова Мсцісл. *Ён ужу, знаць, саўсім здурей. Ета ж тыкі нада: пусьціў нарошна кыня ў хлеб і думыць сабе забыў.* Арцёмаўка Міласл. *Ён нарошня мяне дражніць.* Палуж Краснап.

НАРТ, -а, *м.* Упарты чалавек, які хоча ўсё рабіць па-свойму. *Калі ўдайся нарт, дык яго трудна пірядзелыць — усё па-свойму, усё, як ён хочыць.* Кокатава Мсцісл.

НАРУГА, -і, *ж.* Наруга, здзек. *Дакуль будзя ета наруга ныда мной?* Брылёўка Краснап.

НАРУГАЦЦА, *дзеясл.* Здзеквацца. *Як ён ужо над етыю дзяўчыныю наругаіцца, дык божа крый.* Цівецкая Краснап. *Наругаіцца ён, ня хоча прынесьць дроў.* Крычаў.

НАРУГЛІВЫЙ, *прым.* [Здзеклівы], упарты. *Наруглівыя дзеўка, што ні зыгыдай — па-свойму зьдзелыя.* Палуж Краснап.

НАРУЖНІК, -а, *м.* Упарты [здзеклівы]. *Урадзіўся хлапец такі наружнік, што ні ў чым не хоча паслухыць.* Сохана Мсцісл.

НАРУСЦА, *дзеясл.* Наплакацца, нараўціся. *Доўга яму нарусца?* Брылёўка Краснап.

НАРУШНІК, -а, *м.* Ручайка, верацяно з напрадзенымі на яго ніткамі. *За вечыр ныпряла два нарушнікі.* Усцінавічы Краснап. *Сяньня я мала спрала нітак, толька нарушнік.* Зяніца Мсцісл.

НАРЫ, -аў, *мн. л.* Дошкі на козлах для спання. *Дзеці пыклаліся спаць ны нарах.* Вінаградаў Міласл.

НАРЫЛЬНІК, -а, *м.* Высыпка, маленькія прышчынкі на губах. *Нарыльнік нейкі прыкінуўсь, гной цячэць, усі губы распухлі.* Хвёдараўка Краснап.

НАРЫСУВАНЫЙ, *прым.* Намаляваны. *Перыгарнуў ліст у кнізе, а там такоя нарысувана!* Парадзіна Мсцісл.

НАРЫЦА, -ы, *ж.* [Падскуравы] нарыў у каня. *Не купляй етыга кыня, відзіш, у яго нарыца.* Хвёдараўка Краснап.

НАРЫЦІЦЦА, *дзеясл.* Нарыхтавацца, мець намер. *Дзеўка нарыцілася пайсці туды.* Стрэшын.

НАРЫЦЬ, *дзеясл.* Бадзяцца. *Доўга яму прышлося нарыць па сьвету.* Хвёдараўка Краснап.

НАРЭЗ, -а, *м.* Нарэз, зарубка. *Ніграматныя людзі длі памяці дзелыюць нарэзы ны палычкі і ета называецца бірка.* Пячара Касцюк.

НАРЭЗЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Нарэзаць. *Нарэж-ка ты там віччыны нам на поўдзень у поле.* Пірагова Мсцісл. *Нарэзыла бульбу скрылямі.* Палуж Краснап. 2. Напілаваць. *Я сабе аблету нарэзыў, штоб узімку ні тапіць сырымі.* Хвёдараўка Краснап.

НАСАВІК, -а, *м.* Насоўка. *Я купіла насавік за дваццаць пяць капеек.* Віхраны Мсцісл. *Ета насавік малы длі майго носа.* Азерцы Клім. *Пыдажджы, я толькі нысавік чыстый вазьму.* Шумячы.

НАСАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Насадзіць. *Аўса насадзілі цэлую асець.* Машавая Бялынкав. *Пайдзём-ка насадзім асець.* Расна.

НАСЕНЬНЯ, -я, *н.* Насенне. *Ны вясну засталося ўсяго тры пуды насеньня.* Аўчынец Краснап. *Янка ўзяў у магазіні насеньня.* Ропцы Расклян.

НАСЕЧ, *дзеясл.* Насячы. *Айдзе тапор ці сякера, нада дроў насеч.* Арцёмаўка Краснап.

НАСІЛУ, *прысл.* Ледзь-ледзь, праз сілу. *Насілу дыбраўсь двору.* Бардзіч Краснап. *Прасіўся, дык насілу ўзялі.* Палуж Краснап.

НАСІЛЬСТВА, -а, *н.* Гвалт, прымус. *Што ета ён гоніць у падводы у такую дарогу, калі ні ны санях, ні ны калёсых — ета насільства.* Арцёмаўка Міласл.

НАСІЦЦА, *дзеясл.* 1. Насіцца. *Нішто сабе, слаўны мульт, насіцца доўга будзе.* Добрае Мсцісл. *Пінькучы даўжэй носюцца.* Хвёдараўка Краснап. 2. Бегаць. *Носісься, як ашалелы, а нічога ня выбігаіш.* Каробчына Мсцісл. *Носіцца, як ванцыпыр.* Палуж Краснап.

НАСІЦЬ, *дзеясл.* Насіць. *Сподкі носяць зімою, а ты ўжо цяпер іх надзеў.* Ропцы Расклян. *Малэя дзеці абдзіркі большых носюць.* Палуж Краснап. *Узімку маці носіць андрак.* Баеўка Краснап. *Дзед носіць куляры.* Гібалы Касцюк.

НАСКВОЗЬ, *прысл.* Наскрозь. *Пакора працякае насквозь, і ў лодкі пысьля дажджу набіраецца вады.* Тур'я Чэрык.

НАСКРАБСЬЦІ [наскрэсьць], *дзеясл.* Наскрэбці. *Наскрабі бульбы, сёньня бліны будзем пячы.* Барысавічы Клім.

НАСКРОЗЬ, *прысл.* Наскрозь, навылёт. *Кінуў вілымі ў пырасёнка і праткнуў*

*яго наскрозь.* Арцёмаўка Краснап. *Куля прыйшла сьцяну наскрозь.* Бяседавічы Хоцім.

НАСКУ́БЛІНЫЙ, *прым.* Наскубаны. *Наскубліныя пер'я складзі ў навылычку, ну ні зашывай, а зывяжы.* Хвёдараўка Краснап.

НАСКУ́БЫНЫЙ, *прым.* Наскубаны. *Наскубыныю воўну склалі ў мех і пывязьлі на воўначоску.* Пірагова Мсцісл.

НАСКУ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Наскубці. *Нада наскусьць пер'я ны падушку.* Горня Хоцім. *Думыла сяньні воўны наскусьць, ды пасьпела іншыя работа, а гэста так і зысталысь.* Ушакі Чэрык.

НА́СМЫРК, -а, *м.* Насмарк. *Дужа вялікі ў мяне насмырк — у дзень тры насоўкі мала.* Арцёмаўка Міласл.

НАСНАВА́ЦЬ, *дзеясл.* Наснаваць. *Наснавалі красён толькі восім пасым.* Ельня Краснап.

НАСО́ВІК, -а, *м.* Насоўка. *Памый мой насовік, ато ён дужа брудны стаў.* Лабаноўка Хоцім.

НАСО́ВІЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад насовік. *Хлопчык згубіў насовічык, і яму няма чым нос выцерці.* Вярбоўка Расням.

НАСО́К, ныска́, *м.* Насок, носік. *Насок у чайніку адбіўся, дык наліваць плоха.* Негін Касцюк. *Ты ў блішаным чайніку прынясі ва́ды на поля. Яго зычыніць крыжычкыю можна і піць лоўка з ныска.* Арцёмаўка Краснап.

НАСО́С, -а, *м.* Нагнаенне паднябення [у коней]. *У кабылы зьдзелыўся насос і есьць нічога ня можыць.* Хвёдараўка Краснап.

НАСО́ЎКА, -і, *ж.* Насоўка. *Выніў насоўку з кішэні, а з ёю і тры рублі выліціла, ладна што агледзіўся, дык нашоў.* Ропцы Расням.

НАСПО́Д, *прысл.* Навыварат. *Хлапец сарочку наспод надзеў.* Палуж Краснап.

НА́СТА, -ы, *ж.* Уласнае імя Настуля. *Аўдоцьця з Настай аб нечым зюкаюць.* Малюшын Краснап.

НАСТАВА́ЦЬ, *дзеясл.* Наставаць. *Ці мыладзік яшчэ не наставаў?* Гібалы Касцюк.

НАСТА́ЛІЦЬ, *дзеясл.* 1. Насталіць, наварыць сталлю. *Тапор нада насталіць, ато ён ужу весь стачыўсь — адно жалеза зысталося.* Зяціца Мсцісл. 2. Набіць. *Вядома, дурак, каб морду насталіў — быў бы разумны.* Радзіонаўка Мсцісл.

НАСТА́ЎНІК, -а, *м.* Настаўнік. *Балазе, што прышоў настаўнік, ато вучні б не займаліcь.* Юшкавічы Расням. *Нашыга настаўніка ўсі сяляне паважаюць, кожнае яго слова для іх маіць вагу.* Сохана Мсцісл.

НАСТА́ЎНІЦА, -ы, *ж.* Настаўніца. *Настаўніца казала, штоб заўтры ўсі прышлі ў школу, будзіць новыя кніжкі дываць.* Макуліна Расням.

НАСТО́ЙЧЫВЫЙ, *прым.* Настойлівы. *Ён хлопіц настойчывы, як захоча — даб'ецца свайго.* Іванаўка Краснап.

НАСТО́ЛЬНІК, -а, *м.* 1. Настольнік, абрус. *Зысьцялі на стол чыстый настольнік.* Вярбоўка Расням. *Стол накрыт настольнікам.* Сідараўка Краснап. *Зысьцялі настольнік, будзем абедаць.* Слаўнае Мсцісл. 2. Сталаўнік, чалавек, які сталуецца ў гаспадыні. *У Макрыды тры настольнікі, зь етыга жывець.* Маластоўка Краснап. *Хызяйка бярэць з настольніка зы харчы ў месіц дзесіць рублей.* Слаўнае Мсцісл.

НАСТО́РЧ, *прысл.* Усторч. *Ні сячы насторч, ато тапор аткрышыцца.* Хвёдараўка Краснап.

НАСТРЫ́ГЧЫ [настры́жч], *дзеясл.* Настрыгчы. *Многа вы сяньні настрыглі воўны.* Новыя Капачы Мсцісл. *Сёліта многа мы воўны настрыглі.* Крычаў.

НАСТУПА́ЦЬ, *дзеясл.* Наступаць, набліжацца, надыходзіць. *Наступае сьвята.* Крычаў. *Другая квадра прайшла, наступае ўжо трэцяя квадра.* Хлышчы Мсцісл.

НАСТУПІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Наступіць. *Конь наступіў мне ны нагу падковый, дык уся ныга ўспухла.* Касцюшкавічы Крыч. 2. Настаць, надыйсці. *Наступілі месячныя ночы.* Кажамякіна Краснап.

НАСТУ́ПНЫЙ, *прым.* Наступны. *Скора ўжо пычанецца сыск налогу зы наступный год.* Слаўнае Мсцісл. *Наступный год павінін быць урыджайнэй.* Вінаградаў Міласл.

НАСУКА́ЦЬ, *дзеясл.* Насукаць. *Насукай мне нітык, цэвык з дзісятык.* Хвёдараўка Краснап. *Ідзі, сынок, насукай цэўку.* Камароўка Крыч.

НАСУ́НУЦЬ, *дзеясл.* Насунуць, найсці. *Насунула хмара — ці ня будзіць дожджу.* Дубеец Касцюк.

НАСУ́ПА, -ы, *ж.* Хмуры чалавек, насуплівы. *Што ета за чылавек? Сядзіць, ні зысьмяецца, ні скажа што — насупа нейкыя.* Аляксандраўка Краснап.

НАСУПРЫЦЯ́, *прысл.* Напроці. *Масей Вутычка жывець насупрыця таго вунь калодзіся.* Палуж Краснап.

НАСУСТРЕ́ЧУ, *прысл.* Насустрач. *Насустречу выбігла Ріпіна.* Шумячы.

НАСУ́СТРІЧ, *прысл.* Насустрач. *Толькі выіхалі зь лесу, а насустріч — ляснік.* Высокі Бор Краснап.

НАСУЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Насукаць. *Як села, дык у момант дзесяць цэвык насучыла.* Бель Мсцісл.

НАСУШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Насушыць. *Наша ейня быльшая, там можна столькі насушыць снапоў, што за дзень не змалоціш.* Пірагова Мсцісл. *Насушыла сёліта грыбоў, што хопіць на ўсю зіму.* Бакунавічы Чэрык.

НА́СЫП, -у, *м.* Нанос пяску ветрам [і насыпаная гара зямлі]. *З дарогі насып ветрым насыпыла на луку — травы столькі прыпала.* Барысавічы Клім. *Нынясло насыпу кыла пыграбкі, нада ідці адкапываць.* Пірагова Мсцісл.

НАСЫ́ПАНЫЙ, *прым.* Насыпаны. *Засік насыпан аўсом.* Канава Хоцім. *Поўны засік насыпан жытам.* Беразяк Краснап.

НАСЫ́ПАЦЬ, *дзеясл.* Насыпаць. *Жыта сёліта ўрадзіла — насыпылі цэлый засік.* Машавая Бялынкав. *Насыпыў поўный кішэнь семячык, ходзіць ды лузгаіць.* Гусарка Клім.

НАСЫ́ПАЦЦА, *дзеясл.* Насыпацца. *Тут зь мішка насыпалась жыта, пакліч курэй, ніхай пазбіраюць.* Маравілле Касцюк.

НАСЫЦІЦЦА, *дзеясл.* Наесціся, падсілкавацца. *Ну, спасіба вам, насыціліся, цяпер за работу!* Пірагова Мсцісл.

НАСЬКІ́ДЫЦЬ, *дзеясл.* Назбіраць. *Наськідыла пы ягыдцы цэльню даёнку.* Хвёдараўка Краснап.

НАСЬКІ́Й, *прым.* Наш, свой. *Ета чылавек наській.* Гібалы Касцюк. *Ён наській чылавек, яго ні нада быяцца.* Хвёдараўка Краснап.

НАСЬКІПА́ЦЬ, *дзеясл.* Нашчапаць, нарабіць трэсак. *Наськіпай падтопы, ато печка ні рызгыраецца.* Старае Сяло Мсцісл.

НАСЬЛЕ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Асачыць [высачыць]. *Прахор насьледзіў лісіцу.* Палуж Краснап.

НАСЬЛЕ́СТВА, -а, *н.* Спадчына. *У насьлестве ад бацькі асталісь мне адны толькі русыя кудры.* Слаўнае Мсцісл.

НАСЬМЕ́Х, *прысл.* Насмех. *Як увідзілі яе ў кароткій спадніцы, дык насмех усі пыднялі.* Арцёмаўка Міласл.

НАСЬМЕ́ШКА, -і, *ж.* Насмешка, кпіна. *Аб малый насьмешкі наш Сьціпан пачынаіць хліпыць.* Лешчынка Мсцісл.

НАСЬМІ́Х, *прысл.* [Насмех], жартам. *Дурный, чаго ж ты плачыш — я ж насьміх скызала!* Пірагова Мсцісл.

НАСЬМІ́ШКА, -і, *ж.* Насмешка. *Твае насьмішкі ў канце канцоў дывядуць ды таго, што я ўстану і намну табе рёбры.* Бяседавічы Хоцім. *Ета толькі насьмішка адна.* Арцёмаўка Міласл.

НАСЬМІ́ШЛІВА, *прысл.* Насмешліва, кпліва. *Гляну, што я йду і гэтак насьмішліва прыплюснуў вочы.* Ушакі Чэрык.

НАСЬПЕ́Х, *прысл.* Наспех. *Ета карыта насьпех дзелылі, нешта дужа скора нада было, дык яго і зьдзелылі такім дрэнным.* Арцёмаўка Міласл.

НА́СЬЦЕЖ [на́сьціж], *прысл.* Насцеж. *Дзверы расчынены насьцеж.* Хоцімск. *Прыхажу я двору, гляжу: дзьверi насьціж ачыніны.* Арцёмаўка Міласл.

НАСЯЧЫ́ [насе́ч], *дзеясл.* Насячы, насекчы. *Насячы воз прывязак.* Вародзькава Крыч. *Насякі сьвіньням крапівы.* Янаўка Мсцісл.

НАТАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Напаліць. *Нада натапіць лазьню ды памыцца.* Глупікі Крыч. *Натапіла печку, як узімку ўсё роўна.* Маравілле Касцюк.

НАТА́ЦЫЯ, -і, *ж.* [Натацыя], праборка. *Дай яму добрую натацыю за ета, штоб другей раз помніў.* Гарманава Мсцісл. *Ты яму дай добрую натацыю.* Паходавічы Чэрык.

НАТКА́ЦЬ, *дзеясл.* Наткаць. *Наткала палатна цэлую скрыню.* Гарбавічы Касцюк.

НАТО́РКЫЦЬ, *дзеясл.* Наторкаць. *Яны нылумалі пруцьця і наторкылі віткі ат мяжы ды мяжы, штоб праехыць прямую быразну.* Арцёмаўка Міласл.

НАТО́СЬНІК, -а, *м.* Кольца атосы, што надзяваюцца на канец восі. *Зваліўсь натосьнік, і калёсы пашлі бокым.* Бяседавічы Хоцім. *Натосьнік пырваўсь, нада зьдзелыць новый.* Ташна Клім

НАТПА́ШША, *прысл.* Наводмаш. *Як даў яму натпашша, дык і зыгрымеў.* Хвёдараўка Краснап.

НАТРА́ПІЦЬ, *дзеясл.* Натрапіць. *Хлопцы пасьвілі коні і натрапілі на кусты ажыны.* Пірагова Мсцісл.

НАТРЭ́СЬЦІ [натрэсьць], *дзеясл.* Натрэсці. *Зы такія дзялы варта было натрэсьці за чупрыну, але ніхай ужо так абыйдзецца на етый раз.* Зяцічы Мсцісл. *Я натрос цэльный мех падуль.* Тур'я Чэрык.

НАТТА, *прысл.* Надта, вельмі. *Натта добрыя пышкі вышлі — паспрабуй.* Маравілле Касцюк.

НАТТО́ЧКА, -і, *ж.* Надточка, падаўжэнне. *Тут нада натточку зьдзелыць, ато каротка.* Хвёдараўка Краснап.

НАТУ́ГА, -і, *ж.* Натуга [напружанне]. *Каб ні натуга кыня, дык бы нам і ня выбрацца з балота.* Слаўнае Мсцісл.

НАТУ́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Нацягнуць, напружыць. *Натужы вяроўку, ато аслабла і сена трусіцца.* Брылёўка Краснап.

НАТУ́РА, -ы, *ж.* Натура, характар. *Нічога ня зробім зь етым чылавекым, еткыя ў яго цьвёрж натура.* Палуж Краснап.

НАТУ́РЛІВЫЙ, *прым.* Наравісты. *Ні купляй етыга кыня — ён натурлівый.* Бакунавічы Чэрык. *Етый конь дужа натурлівый.* Хвёдараўка Краснап.

НАТЫКА́НКА, -і, *ж.* Распусная дзеўка. *Яна ня дзеўка, а натыканка.* Хвёдараўка Краснап.

НА́ТЫП, -а, *м.* Конскі след. *Вот натыпы пашлі пы аўсу — коні нечыі беглі, знаць.* Хвёдараўка Краснап.

НАЎВЕ́ЦІ, *прысл.* На прыкмеце. *Пыкладзі ета наўвеці, штоб ні забыцца.* Палуж Краснап. *Німа ў мяне наўвеці ніводныга жыніха.* Слаўнае Мсцісл.

НАЎГА́ДЗЬКІ, *прысл.* Наўгад. *Сяньні мы хадзілі ў лес у ягыды, заблудзілі і ня ведылі, куды іціць, дык мы тады пашлі наўгодзькі і т'кі вышлі зь лесу.* Гібалы Касцюк.

НАЎГО́ЛЬНІК, -а, *м.* Вінкель. *Наўгольнік быў ніправільнэй, таму ніправільна вышла.* Шарэйкі Касцюк. *Нада купіць наўгольнік, ато бізь яго дрэнна рісуваць.* Сапрынавічы Мсцісл.

НАЎДА́КУ, *прысл.* 1. Наўрад. *Наўдаку, што іна асталась у жывых.* Хоцімск. *Наўдаку ён пойдзіць сюды.* Васілеўка Хоцім. 2. Наўгад, на ўдачу. *Пашоў туды наўдаку і якраз прышоў, куды трэба.* Хвёдараўка Краснап.

НАЎДЫГА́ДЗЬКІ, *прысл.* Наўгад. *Наўдыгадзькі ён туды пайшоў.* Хвёдараўка Краснап.

НАЎКО́ЛА, *прысл.* Наўкола, наўкруг. *А наўкола, як вокам дыстаць, усё поля, поля.* Ушакі Чэрык. *Пынасабірае Лявон дзяцей наўкола сябе ды гуляе зь імі.* Робцы Расняп.

НАЎМО́Р, *прысл.* Насмерць. *Пірапужайся я сяньні наўмор.* Хвёдараўка Краснап.

НАЎПРАЦІ́Ў, *прысл.* Наўпроці [насупроць]. *Вучылішча ікраз наўпраціў хаты Яўмена.* Тур'я Краснап.

НАЎПРО́ЦІ, *прысл.* Наўпроці [насупроць]. *Наўпроці мяне стыяла люстэрка, і мне была відна, што ён адзадзі мяне робіць.* Ушакі Чэрык.

НАЎПРО́ЦЬ, *прысл.* Насупроць [наперакор]. *Што табе ні скажы, ты ўсё наўпроць зьдзелыіш.* Шумячы.

НАЎПРЕ́К, *прысл.* Насуперак, наперакор. *Ён усё йдзець наўпрек.* Хвёдараўка Краснап. *Сын ідзець наўпрек бацьку.* Палуж Краснап.

НАЎРО́ДЗЕ, *прысл.* Накшталт. *Глядзім, ажно ў райку ляжыць нехта, наўродзе як ба чылавек.* Юшкі Мсцісл.

НАЎРО́К, -у, *м.* Урокі. *Нада к бабкі схадзіць, штоб нышыптала ад наўроку.* Негін Касцюк. *Трэба нышыптаць ат наўроку.* Нова-Ельня Краснап.

НАЎСКО́СЬ, *прысл.* Наўскась, накасяк. *У Ясенцы скачуць касую польку, скачуць наўскось.* Хвёдараўка Краснап.

НАЎСКЫЧ, *прысл.* Наўскач. *Мой конь утрюх, а яго наўскыч і чуць спрыўляецца з маім.* Бяседавічы Хоцім. *Бягі наўскыч і скажы яму, каб скарей прыхадзіў дамоў.* Лешчынка Мсцісл. *Етый конь ня ўмеіць беч трюшком: ён ці шагым ідзець, ці наўскыч бягіць.* Арцёмаўка Міласл.

НАЎСТО́РЬЧ, *прысл.* Насустрач. *Наўсторьч бег ка мне чылавек.* Хвёдараўка Краснап.

НАЎСТРЭ́Ч, *прысл.* Насустрач. *Бяжы, сынок, ак бацьку наўстрэч!* Маластоўка Краснап.

НАЎСЮ́ДЫ, *прысл.* Усюды. *Наўсюды людзі, як людзі, толькі ў нас скаріды нейкіі.* Шумячы.

НАЎХОДЫ, *прысл.* Наўцёкі. *Воўк пусьціўся наўходы.* Хвёдараўка Краснап.

НАЎХРЫСЬЦЬ, *прысл.* Накрыж. *Кольля ўбіта наўхрысьць, і на іх паложына жэрдка.* Палуж Краснап.

НАЎЦЯНЬКІ́, *прысл.* Нацянькі, проста, не дарогаю. *Пайшоў туды ні дарогыю, а наўцянькі.* Горкі Краснап.

НАЎЧО́НЫЙ, *прым.* Вучоны, навучаны. *У Зьмітрыка сын наўчоный, нівірьсьцітэт скончыў ці што.* Палуж Краснап.

НАЎЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Навучыць. *У нас жылі калужцы і наўчылі мяне плесьць пахлапні.* Гібалы Касцюк.

НАЎЯ́, *прысл.* Наяву. *Ці ты ета ва сьне бачыў ці наўя?* Хвёдараўка Краснап.

НАХА́БА, -ы, *ж.* 1. Нахаба, нагласць. *Во дык нахаба: прышлі хлопцы з чужога сяла і набілі нашых.* Смольская Буда Бялынкав. 2. Няшчасце, навала. *Аткуля ета ны маю гылаву нахаба такая?* Дубеец Касцюк. *Во навалілась на маю галаву нахаба.* Мсціслаў. *Во яшчэ нахаба на маю галаву.* Галоўчыцы Клім.

НАХА́БНЫЙ, *прым.* Нахабны, наглы. *Во нахабны хлапец, із рук вырваў.* Ронцы Раснян.

НАХІ́Л, -у, *м.* Нахіл. *Стріха мела крутый нахіл, дык ён ні ўдзіржаўсь і пыляцеў уніз.* Слаўнае Мсцісл.

НАХІ́ЛІНЫЙ, *прым.* Нахілены. *Нахіліный к зямле дуб меў пічальный выглід.* Слаўнае Мсцісл.

НАХІЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Нахіліцца, нагнуцца. *У мяне баліць сьпіна: ні магу нахіліцца.* Гібалы Касцюк.

НАХІЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Нахіліць. *Нахілі сваю галоўку.* Васілёўка Хоцім. *Буря нахіліла древы ў адзін бок.* Слаўнае Мсцісл.

НАХЛАБУ́ЧКА, -і, *ж.* Праборка, натацыя. *Дай яму добрыю нахлабучку за ета.* Азерцы Клім.

НАХМУ́РІЦЬ, *дзеясл.* 1. Нахмурыць. *Ён хацеў нахмуріць ліцо, штоб пыкызаць, што сярдзіт, ды замест етыга як зысьмяецца!* Арцёмаўка Міласл. 2 Сабрацца хмарам. *Нешта нахмурыла, глядзі, што дождж пойдзіць.* Серчыцы Краснап.

НАХО́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Знаходзіцца. *Мыя дзярэўня находзіцца ад горада ў дваццаці вярстах.* Лешчынка Мсцісл.

НАХО́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Надыходзіць. *Нада дзьверы матый абабіць, бо зіма находзіць — холыдна будзіць.* Асмолавічы Мсцісл.

НАХО́ДНЫЙ, *прым.* Знойдзены. *Находную вешч нада аддаць нызад.* Слаўнае Мсцісл.

НА́ХРЫПЫМ, *прысл.* Нахрапам. *Нахрыпым дабіўся свайго.* Палуж Краснап.

НАЦІ́НА, -ы, *ж.* Націна, сцябло агародніны. *Націна гырбуза абвіла і спутыла націну бульбы. Селіта гуркі ні зырадзілі, вырысла адна націна.* Слаўнае Мсцісл. *Націна вялікыя, а морква з мышыный хвост.* Іванаўка Хоцім.

НАЦІ́НКА, -і, *ж.* 1. Зацён, нораў (у каня). *Етый конь з націнкай, ня купляй яго.* Юр'евічы Клім. 2. Памянш. ад націна. *Націнка слабыя ў агародзі — нічога ні расьцець.* Горка Краснап.

НАЦІ́НЬНЯ, -я, *н. зборн.* Націны. *Усё пашло ў націньня, а бульбы німа.* Горка Краснап. *Націньня ў морквы бальшоя.* Палуж Краснап.

НАЦМЫКТА́ЦЦА, *дзеясл.* Насмактацца, напіцца з прагнасцю. *Нацмыктаўсь, як павук, крыві маёй.* Хвёдараўка Краснап.

НАЦУ́ДЛІЦЦА, *дзеясл.* Нацадзіцца, наліцца, напіцца праз меру. *Нацудліўсь бярёзывіку ды 'твалу.* Хвёдараўка Краснап.

НАЦЯ́ГАВІЧ, -а, *м.* 1. Прылада, пры дапамозе якой нацягваюць абручы на бочку. *Дай нацягавіч, трэба нацягнуць абручы на бочку.* Вародзькава Крыч. 2. Палка, пры дапамозе якой падкручваюць навой у кроснах. *Аслабані нацягавіч, адпусьці троху навой, ато дужа туга — ніткі рвуцца.* Негін Касцюк. *Нацягавіч выпаў з навоя, паднімі.* Залесавічы Крыч.

НАЦЯГНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Нацягнуць, назапасіць. *Нацягнуў ён саломы на вільчык, а вецер узяў ды пазьдзьмуў.* Пірагова Мсцісл.

НАЦЯНЬКІ́, *прысл.* Нацянькі, напрасткі. *Мы ходзім цераз лес нацянькі.* Буліна Клім.

НАЧА́ЛЬНІК, -а, *м.* Начальнік. *Старшыня Рыку — самы вышэйшы начальнік у раёне.* Касцюковічы. *Ці ні бачыў ты начальніка станцыі?* Міцькаўшчына Мсцісл.

НАЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Пачаць. *Зоська з Ганнай спычатку ціха гываралі, а потым началі аскірзацца.* Старае Сяло Мсцісл.

НАЧЛЕ́Г, -у, *м.* Начлег, вывад коней на пашу ўночы. *Позьняй восіньню заместа таго, каб вадзіць коні ны начлег, водзяць удосьвіткі.* Затоны Расням.

НАЧО́ЎКІ, -вык, *мн. л.* Начоўкі. *Прынясі начоўкі, будзем бялізну мыць.* Лабаноўка Хоцім. *Купіла сабе новыя начоўкі.* Зоры Чэрык. *У начоўках мыла плацьце.* Беразяк Краснап. *Ну, цяпер будзець у чым нам мыць бяльлё:. бацька начоўкі купіў на таргу.* Пірагова Мсцісл.

НАЧО́ЦІСТА, *прысл.* Накладна, стратна. *Па столькі браўшы — будзіць начоціста.* Хоцімск.

НАЧУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Начаваць. *Застывайся, сват, начуваць, ня едзь уночы — ны дарозе неспакойна, кажуць.* Маляцічы Крыч. *Наш кноруз дык ніколі ў дваре ні начуіць.* Гібалы Қасцюк. *Цыгане расьпусьцілі свае былагоны і начуюць на выгане.* Қасцюковічы.

НАЧЫКУ́, *прысл.* Напагатове. *Эйш, пан бальшый! Стой перад ім начыку.* Куркаўшчына Мсцісл.

НАЧЫ́НЬНЯ, -я, *н. зборн.* Вантробы, лантушша. *Нешта, відаць, зьеў такоя: із яго павыцягнула ўсё начыньня.* Затоны Расням.

НА́ЧЫСТА, *прысл.* Начыста. *Мыт прыняў, дык вымыў, выпылыскаў начыста.* Хвёдараўка Краснап.

НАШ, *займ.* Наш. *Наш сад абгароджын лескаю.* Дубеец Қасцюк. *Ета чылавек ні нашыга краю, ён чужаземіц.* Белы Мох Мсцісл. *Кыла нашыя речкі вярсты за тры цягніцца шырокі зялёны лог.* Слаўнае Мсцісл.

НАШЛЕ́ЖКІ, -аў, *мн. л.* Начаванне не ў сваёй хаце. *Сяньня ўдваре ня буду спаць, а пайду к цётцы ў нашлежкі.* Слаўнае Мсцісл.

НАШЛЕ́ЖНІК, -а, *м.* Начлежнік, [той, каго пусцілі нанач або] што водзіць коні пасвіць уночы. *Нашлежнікі рысьцягнулі усё прясла ны агонь.* Бяседавічы Хоцім. *Нашлежнікі, відаць, тут коні пасьцівілі, вось і вогнішча тут.* Дубровіцы Клім.

НАШО́ВЫ, -аў, *мн. л.* Вышыванне. *Нашовы ны сарочку яшчэ зьдзелаць нада.* Іванаўка Хоцім.

НАШТО́, *прысл.* Нашто. *Нашто ты кутыіш так дзіцёнка у шубу, у адзіяла, ён жа будзіць быяцца прастуды? Нашто табе дзіржаць лішніга дырмаеда?* Слаўнае Мсцісл.

НАШУПЫ́РЫЦЦА, *дзеясл.* Нашупырыцца, наставіць пер'е (пра курэй). *Курыца наша нешта нашупырылыся.* Палуж Краснап.

НА́ШЧА, *прысл.* Нашча, на галодны жывот. *На, вось выпі лікарства нашча.* Зоры Чэрык. *Нашча курыць не здорава.* Палуж Краснап. *Грішка наеўсь нашча ягыд, а цяперь жаліцца жыватом.* Гібалы Қасцюк.

НАШЧО́Т, *прыназ.* Наконт, пра. *Пыгаворым нашчот нашых бацькоў, як яны там мадзеюць.* Пірагова Мсцісл.

НАШЫВА́НЫЙ, *прым.* Вышыты. *У Просі вельмі красіва нашывана сарочка.* Смольская Буда Бялынкав.

НАШЫВА́НЬНЯ, -я, *н.* Вышыванне, вышыўка каляровымі ніткамі. *Маё нашываньня вельмі добрыя.* Лабаноўка Хоцім.

НАШЫ́ЙНІК, -а, *ж.* Шалік. *Чаму ты нашыйнік ні зьвізаў?* Брылёўка Краснап. *Нашыйнік мой ужо саўсім пырваўсь і ні грэіць — нада новы купляць.* Забычанне Қасцюк.

НАШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Нашыць. *Ны спадніцу нашыла ў тры рады хвальбонаў.* Старае Сяло Мсцісл. *Я ны спадніцу бліскучыя галёны нашыла.* Қасцюшкавічы Крыч. 2. Вышыць. *Нашыць сарочку нада, ды заблыці німа.* Белы Қамень Бялынкав. *Мне нада у сарочцы нашыць палікі на плечы.* Слаўнае Мсцісл.

НЕ, *часц.* Не (адмаўленне). *Не, я йшчэ ня мыўся.* Слаўнае Мсцісл. *Ці пымылаціў ты сваё збожжа? — Не, яшчэ не пымылаціў.* Пухнава Расням.

НЕАБХО́ДНА, *прысл.* Неабходна. *Зімля выпахывыіцца, калі ны ёй сеіць бізь зьмены, таму яе неабходна угнойваць.* Мазалава Мсцісл. *Неабходна паехаць у горыд.* Вербеж Чэрык.

НЕАБХО́ДНЫЙ, *прым.* Неабходны, патрэбны. *Ён жа мне неабходны, як у лесі тапор.* Паўлавічы Клім.

НЕ́БА, -а, *н.* 1. Неба. *Хмара зыцягнула ўсё неба.* Стары Дзедзін Міласл. *Мылыдня асьвяціла ўсё неба.* Крычаў. *На небе пыкызаўся месік.* Чыгрынаўка Расням. 2. Нёба, паднябенне. *Я не магу есьці, нешта рот баліць: села нейкая скулка на небе.* Пірагова Мсцісл.

НЁБА, -а, *н.* 1. Паднябенне. *Нёба ў мяне нешта успухла.* Шумячы. 2. Скляпенне ў печы. *Нытапіла печку, ажна нёба красныя.* Брылёўка Краснап.

НЕ́БУДЗЬ, *часц.* Небудзь (ужываецца са словамі *што, які, хто* і інш.). *Зыпаліця хто-небудзь кыганец.* Мсціслаў. *Дзіцёнку забуўляцца нада купіць якея-небудзь цацкі — брязголкі ці што.* Арцёмаўка Міласл. *Ты дзе павернісься, дык што-небудзь рызаб'еш.* Хвёдараўка Краснап.

НЕ́ВУК, -а, *м.* Невук. *У вучылішча ні хадзіў — далёка було, мысьцярству тож ня вучыўся, так і зыстаўся невук.* Арцёмаўка Міласл.

НЕГРА́МЫТНЫЙ, *прым.* Непісьменны, *Ён неграмытный — ні прачытаець.* Гібалы Қасцюк.

НЕДАЛЕ́ЧА, *прысл.* Недалёка, блізка. *Недалеча ад нас быў пыжар — гарела хата Цімохыва.* Янаўка Мсцісл. *Ён жывець тут, недалеча.* Добрае Мсцісл.

НЕДАПЕ́ЧАНЫЙ, *прым.* Недапечаны, сыраваты. *Перапечка была недапечана.* Бель Мсцісл.

НЕДАТЫ́ЧКА, -і, *ж.* Неразумны. *У яго дзеці — недатычкі нейкія, ніцямлівыя.* Барысавічы Клім.

НЕДО́ВІЧА, *прысл.* Не так даўно, нядаўна. *Недовіча прыпала карова.* Янаўка Мсцісл.

НЕ́ЙДЗЕ [не́йдзі], *прысл.* Няма дзе. *Усі лаўкі былі зыняты, і нейдзі было сесьць.* Белы Қамень Бялынкав.

НЕ́ЙКІЙ, *займ.* Нейкі. *Ён нейкі куцы чылавек.* Асавец Крыч. *Нейкыя казюлька паўзець.* Хвёдараўка Краснап. *Нейкыя абмырачэньня ны мяне найшло: гляджу перад сабой і нічога ня віджу.* Пірагова Мсцісл.

НЕЙНА́Ч, *прысл.* Няйначай. *Нейнач, як аблічка вышла, тут будзіць болі, як ты налічыла.* Пірагова Мсцісл.

НЕЙСХАДЗІ́МЫЙ, *прым.* Непраходны. *Гадоў дзесіць нызад пат Чэрыкывым былі нейсхадзімыя лясы, а січас усі павырубілі.* Палуж Краснап.

НЕ́КАЛІ, *прысл.* 1. Некалі, калісь. *Часта я ўспамінаю мінуўшчыну — добра мы жылі з ім некалі.* Ушакі Чэрык. 2. Няма калі, няма часу. *Мне трэба б схадзіць к кывалю, ды ўсё некалі.* Гібалы Касцюк.

НЕ́КАЛЬКІ, *прысл.* Некалькі. *Нада йшчэ насукаць некалькі цэвак.* Тур'я Чэрык.

НЕ́КРУТ, -а, *м.* 1. Рэкрут, навабранец. *Дайней бралі ў некруты на дваццыць пяць год.* Хвёдараўка Краснап. *А тамыцька сударушка некрутуў выбірала.* Студзянец Касцюк. 2. Няспрытны, непаваротлівы чалавек. *Некрут ты — пывярнуць ня можна.* Хвёдараўка Краснап. *Нявестка мыя такая некрут, што ня возьмець — з рук валіцца.* Пірагова Мсцісл.

НЕ́КУДЫ, *прысл.* Няма куды. *Сьпяшыць некуды, мы й спыхвыля ета зьдзелыім сёньня.* Канічы Касцюк. *Помыз некуды закінуўсь.* Хвёдараўка Краснап.

НЕ́КЫЛІ, *прысл.* Няма калі. *Табе ўсё некылі, ды некылі, хадзі ў грыбы.* Куркаўшчына Мсцісл. *Сяньні я ні пайду ў вучылішча — мне некылі.* Канічы Касцюк. *Некылі мне, нада куріцу скусьць ды пытрашыць скарей, ато ні зваріцца к абеду.* Арцёмаўка Міласл.

НЕЛІДА́ШТЫЙ, *прым.* Нешчаслівы. *Нелідашта мыя доля.* Карма-Пайкі Краснап.

НЕ́ЛЬГА, *прысл.* Нельга, няможна. *Нельга ў лазьню зайсьці, кастрою ўсё засыпана лі дзьвярэй.* Маркаўка Хоцім. *З ёй ня толька жаць — сустрэцца нельга.* Радзіонаўка Мсцісл. *Дуў моцны вецяр, так што нельга было ні выйсьці, ні выехаць з двору.* Жэраціно Мсцісл.

НЕЛЯДА́ШТА, -ы, *ж.* Няшчасце. *Нелядашта пасьціглa чылавека.* Восаў Краснап.

НЕМАЙДА́МА, *прысл.* Нямаведама. *Ён ужо аббрёхыный с усіх бакоў, немайдама што пры яго гаворaць!* Пірагова Мсцісл.

НЕ́МЕРАЧА, -ы, *ж.* Немярэч, непралазнае месца ў лесе. *Зыбраўся ў немерачу ды ня вылізу.* Юр'евічы Клім.

НЕ́МЕЦ, -мца, *м.* Гульня. *У немца гуляюць дзеці і дарослыя хлопцы.* Шарэйкі Касцюк.

НЕ́МІРІЧ, -ы, *ж.* Немярэч, непралазнае месца ў лесе. *Высіклі лес ды ні падчысьцілі, дык цяперь стала тыкая неміріч, што ні прайсці ні праехыць.* Слаўнае Мсцісл.

НЕ́МКА, -і, *ж.* Глуханямая. *У іх немка ў чылядкых служа.* Палуж Краснап.

НЕ́МЫРЯ, -і, *ж.* Жах, немарасць, страх. *Немыря бярець, як падумаіш пра етыю жысцъ — ніхай іна ня верьніцца.* Горкі Краснап.

НЕНА́СЬЦЯ, -я, *н.* Нягода, дрэннае надвор'е. *Пашло ўжо ненасьця, пагоды ні будзець.* Буліна Касцюк.

НЕНАУЦЕ́Й, *прысл.* Нечакана. *Ты прыехаў ненаўцей.* Хоцімск.

НЕ́НЬКІЙ, *займ.* Нейкі. *Хлопіц ненькій пашоў.* Хвёдараўка Краснап.

НЕПАВАРО́ТЛІВЫЙ, *прым.* Непаваротлівы. *Вандзюка ты непаваротлівы.* Куркаўшчына Мсцісл.

НЕПРЫМЕ́ННА, *прысл.* Абавязкова. *Ты ж глядзі, непрыменна зайдзі, я буду ждаць.* Паходавічы Хоцім.

НЕПУЦЬЦЁ, -я, *н.* Недарэчнасць. *Што ты прыдумваеш ўсякыя непуцьцё? Я табе ўсё 'дно ні паверу.* Пірагова Мсцісл.

НЕ́ПЫГЫДЗЬ, -і, *ж.* Нягода, дрэннае надвор'е. *Ныдаела ета непыгыдзь, усё дажджы ды дажджы.* Арцёмаўка Міласл.

НЕ́РАТ, не́ріт, -рада і -рата, *м.* Нерат, прылада лавіць рыбу. *Пайдзем, Янка, ставіць нерат, ужо пачалася рыба церца.* Хлышчы Мсцісл. *Алесь лавіў нерадам рыбу.* Прыпечына Калінінішчына. *Пупаўсь, што ў неріт: ні ўзад, ні ўперід!* Пірагова Мсцісл. *Здобыч нівялікыя: усяго дзьве плоткі ў неріт улезла.* Палуж Краснап.

НЕ́СКЫЛЬКІ, *прысл.* Некалькі. *Дзядзька ў нас ні часта буваіць — у год нескылькі разоў быў: ны кыляды, тады пыд вясну і во летым пріізжаў.* Арцёмаўка Міласл.

НЕ́СЛУХ, -а, *м.* Неслух, непаслухмяны. *Неслуху кажы ці ні кажы — ўсёдно ні паслухаіць.* Сохана Мсцісл. *Дзіцёнык такей неслух стаў, што хуць ты яму кажы, хуць ні кажы — ён і слухыць ня хочыць.* Арцёмаўка Міласл. *Во неслух! Што ні скажы — ніколі ні паслухыя, ні зробіць.* Старае Сяло Мсцісл.

НЕ́СМЫСЕЛЬ, не́смысіль, -сля, *м.* Блазен, няцямлівы. *Ён яшчэ несмысель, нічога не паніmaіць.* Гібалы Касцюк. *Несмысель ты йшчо!* Хвёдараўка Краснап. *Несмысель, ныбраў нехарошых грыбоў — былагушак.* Дубеец Касцюк. *Ён яшчэ несмысіль, яму усяго шэсць годзікуў, дзе яму пыняць, што ён сірыта зыстаўся.* Арцёмаўка Міласл. *Дзіцёнык — несмысіль.* Іванаўка Хоцім.

НЕ́СЬЦІ [не́сьць], *дзеясл.* Несці. *Ганулья хацела несьці ў поля латушку з блінамі, ды ёй ні далі.* Глінь Клім. *Агата несла поўныя вёдры вады.* Горня Хоцім.

НЕ́ТКУЛЬ, *прысл.* Аднекуль. *Слухый! Неткуль голыс чуць, знаць, нехта зыблудзіўсь.* Палуж Краснап.

НЕЎГЫЛЫ́Й, *прысл.* Не сваім голасам, голасна. *Яго так душылі, што ён неўгылый закрычаў.* Кокатава Мсцісл.

НЕ́ЎЖЛІ, *часц.* Няўжо. *Неўжлі ета праўда?* Хоцімск.

НЕ́ЎК, -а, *м.* Невук. *Двух хлапцоў вывіў у людзі, а трэцыій так і зыстаўсь неук.* Палуж Краснап.

НЕ́ЎКАВЫРНЫЙ, *прым.* Упіра, той, якім нельга ўкіраваць. *Неўкавырный дзяцінка хлапец еты.* Палуж Краснап.

НЕ́ЎЛЮДЗЬДЗЯ, -я, *н.* Нікчэмнасць [нелюдзь]. *Штоб чылавек добры быў, ато неўлюдзьдзя етыя і тое яшчэ будзіць зьдзекывыцца.* Ушакі Чэрык. *Неўлюдзьдзя ты!* Хвёдараўка Краснап.

НЕ́ХТА, *займ.* Нехта. *Вожкі нехта ўкраў.* Лешчынка Мсцісл. *Тут кыляк ны мяжы стыяў і ўжо німа — нехта выцігнуў.* Брылёўка Краснап.

НЕ́ЧА, *займ.* Няма чаго. *Неча табе кызаць аб етым.* Палуж Краснап.

НЕ́ЧЫГА, *займ.* Няма чаго. *Што ты тут арудуеш, ці табе дзелыць нечага?* Пірагова Мсцісл. *Абнасіўсь я ўвесь, напрянуць нечыга.* Шамава Мсцісл. *Ён так знішчэў, што нечыга было есьці.* Палуж Краснап. *Нечыга табе кідацца грышамі — ні быгач якей.* Арцёмаўка Міласл.

НЕ́ЧЫЛЬНА, *прысл.* Няшчыльна. *Нечыльна брайно прыпусьціў.* Хвёдараўка Краснап.

НЕ́ЧЫСЬЦЬ, -і, *ж.* 1. Нечысць, бруд. *Сьвіньня ўсякую нечысьць есьць.* Хвёдараўка Краснап. 2. Нячыстая сіла. *Усякыя нечысьць яму тут пымыгаіць.* Журбін Бялынкав. 3. Гадзюкі. *У лесі етым усякай нечысьці многа водзіцца, босыму нільзя хадзіць, таго і глядзі, што гадзіна ўкусіць.* Зоры Чэрык.

НЕ́ШТА, *займ.* Нешта. *Нешта ён дужа стаў лашчоніцца к табе.* Маластоўка Краснап. *Нешта ж твой воз пычаў асовывацца, крыва ты яго, відна, пыклаў.* Пірагова Мсцісл. *Мам, ты чуіш? Нешта ў сенцах стукнула. Нешта мне скушна стала.* Гібалы Мсцісл.

НЕ́ЯК, *прысл.* 1. Няма як. *Неяк узяць яго голымі рукамі.* Брылёўка Краснап. *За етымі мухамі дык і заснуць неяк.* Вітрунь Касцюк. 2. Як-небудзь. *Неяк жыць жа трэба, жывы ў зямлю ні палезіш!* Брылёўка Краснап. *Абклалыся неяк і грошы німа.* Б. Хутары Краснап.

НІАБХО́ДА, -ы, *ж.* Неабходнасць. *У грішах ніабхода быльшыя, а дыстаць нейдзе — ніхто ні дасьць у доўг.* Палуж Краснап.

НІАБХО́ДНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Неабходнасць. *Мы к яму заехылі па ніабходнасьці, нада было старгувацца аб каню.* Пірагова Мсцісл.

НІАБЫЧА́ЙНЫЙ, *прым.* Надзвычайны. *Сёліта ніабычайныя вісна: цёпла і дажджы йдуць — уріджай доўжін быць багатый.* Лютня Краснап.

НІАДКУ́ЛЬ, *прысл.* Няма адкуль. *Цяжка жыць, як ніадкуль падмогі німа.* Іванаўка Хоцім.

НІАДСЮ́ЛЬ, *прысл.* Неадсюль. *Ніадсюль і ніадтуль ні дыбярэсься ды яго.* Мануйлы Краснап.

НІАТСТУ́ПНА, *прысл.* Неадступна. *Шпіён ніадступна ішоў усьлед за мной.* Слаўнае Мсцісл.

НІАХА́ЙНА, *прысл.* Неахайна. *Работа твыя нікуды ні гадзіцца: дужа ніахайна зьдзелына.* Цівецкая Краснап.

НІБА́ЧНА, *прысл.* Нябачна. *Такога йшчэ нібачна было ў нашый дзярэўні.* Хвёдараўка Краснап.

НІБЫ́, *прысл.* Нібы, быццам. *Нібы-то ён пашоў, нібы-то не.* Добрае Мсцісл. *Кажуць, што нібы-то Кузьма пыдпаліў рыгорава гумно.* Канічы Касцюк.

НІБЫРЯ́КА, -і, *м.* Небарака. *Жывець нібыряка адзін у старэнькій хаткі і ніхто ды яго ні заходзіць.* Бяседавічы Хоцім.

НІБЫ́ЦЦЫМ, *прысл.* Быццам. *Етый чылавек мне нібыццым знакомы.* Кокатава Мсцісл. *Паслухаць яго, дык нібыццым і праўду кажыць чылавек.* Усцінавічы Краснап. *Сплю і віджу ўва сьне, нібыццам я лезу на вісокую гару.* Пірагова Мсцісл.

НІБЯСЬПЕ́ЧНА, *прысл.* Небяспечна. *Тут стыяць нібясьпечна, можыць сырвацца з крышы лёд і ўдаріць пы гылаве.* Мсціслаў.

НІБЯСЬПЕ́ЧНЫЙ, *прым.* Небяспечны. *Нада снапы вазіць, ато пагода нібясьпечна — яшчэ дождж пойдзе.* Старае Сяло Мсцісл.

НІВА́ЖНЫЙ, *прым.* Мала значны. *Ахрэм у сям'і саўсім ніважный — Аўдоцьця ўсёй гыспыдаркай ладзіць.* Жэраціно Мсцісл.

НІВІДА́ЦЬ, *дзеясл., безас.* Не бачна. *Доўга іх нівідаць, ці ні нішчасьця якое, крый бог, случылыся!* Пірагова Мсцісл.

НІВІРСЬЦІЦЕ́Т, -а, *м.* Універсітэт. *У Зьмітрыка сын наўчоны, нівірсьціцет скончыў ці што.* Палуж Краснап.

НІВІ́СЬ, *прысл.* Невядома. *Нівісь як яны даедуць у такую пагоду, хаця каб ні зьбілісь з дарогі.* Арцёмаўка Міласл.

НІВО́ШТА, *прысл.* Нічога. *Яму што? Яму нівошта! А мне дык біда.* Палуж Краснап.

НІГА́ДКІ, *прысл.* Бесклапотна, ні аб чым не думаючы. *Цяпер яму добря: жывець сабе і нігадкі.* Палуж Краснап.

НІДАВЕ́РЫК, -рка, *м.* Недаверак. *Табе ж кажуць, што сяньні выдачы ні будзець, а ты ня верыш, нідаверык ты!* Пірагова Мсцісл.

НІДАРО́СТЫК, -тка, *м.* Недаростак, малога росту, малалетні, *Выйшла замуж за нідаростка — усі сьмяюцца.* Палуж Краснап.

НІДАСТУ́П, -а, *м.* Няўмека, той, хто ні да чаго не ўмее прыступіцца. *Хлапцу ўжо дваццыць гадоў, а ён нідаступ нейкей, нічога ня ўмея дзелыць.* Маластоўка Краснап.

НІДАСТУ́ПНЫЙ, *прым.* Недасяжны. *Етый сінакос нам нідаступный: яго пыстыянна мыластоўцы ріндуюць.* Палуж Краснап.

НІДАСТУ́ПНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Недасяжнасць. *Тут балота, дрігва, нідаступнысьць: ні чылавек, ні скаціна ні пройдзіць.* Хвёдараўка Краснап.

НІДАУ́НА, *прысл.* Нядаўна. *Нідаўна адзін хлопчык ны саломіну выкылыў сабе вока.* Слаўнае Мсцісл. *Нідаўна я быў у горадзі, дык кызалі, што ны днях прывізуць у кыпірацыю ўсякіх тывараў многа.* Сапрынавічы Мсцісл.

НІДАУ́НІЙ, *прым.* Нядаўні. *Ета ён рысказываіць пра нідаўній случай, во, што быў ны днях.* Арцёмаўка Міласл.

НІДБА́ЛА, *прысл.* Нядбала, бяспечна. *Ён заўсёды нідбала адносіцца да працы — ні пірыіначыш ужо яго.* Добрае Мсцісл.

НІДБА́ЛЬСТВА, -а, *н.* Нядбальства, няруплівасць. *Во нідбальства якоя: сена ні звазілі, копы гніюць пыд дажджом, а яны хуць бы што.* Арцёмаўка Міласл.

НІДЗЕ́, *прысл.* Нідзе. *Абхадзіла ўсі двары і нідзе грошы ні дыстала.* Гімбатаўка Мсцісл. *Вось роўнядзь — нідзе ні юркі, ні кусціка ня відна.* Ушакі Чэрык.

НІДЫГЛЯ́Д, -у, *м.* Недагляд. *Усё нідыгляд. Куры крычалі, нада було зьбегаць*

*пыглядзець — ні пышла, сыва і з'ела курі́цу.* Арцёмаўка Міласл.

НІЖДАНА, *прысл.* Нечакана. *Ніждана прыехалі к нам госьці з Асмолавіч.* Пірагова Мсцісл.

НІЖДАНКА, -і, *ж.* Неспадзёўка, нечаканасць. *Для нас ета ніжданка: нічога ні пісаў і ўраз прїехыў, госьцік дырагей.* Цівецкая Краснап.

НІЖДАНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Нечаканасць. *У мяне сяньні тыкая ніжданысьць: брат прыслаў два чырвонцы грошаў.* Пірагова Мсцісл.

НІЖНІЙ, *прым.* Ніжні. *Ніжнія часьць атвалу спыхалысь, нада к кывалю несьць — пылапіць.* Куляшоўка Клім. *На веялцы азадный ячмень ідзець у ніжнае рэшата.* Пірагова Мсцісл.

НІЖНІК, -а, *м.* Валет (у картах). *На што ты йдзеш ніжнікам? У яго адама, дык ён зыбярэць твайго валета.* Хвёдараўка Краснап.

НІЖЫДАНА, *прысл.* Нечакана. *Сваты ніжыдана прыехалі; мы й ня думылі, штоб етыя сваты прїехылі.* Арцёмаўка Міласл.

НІЖЫЦЦА, *дзеясл.* Зніжацца. *Цына на хлеб стала ніжыцца.* Палуж Краснап.

НІЗАБЫТЫЙ, *прым.* Незабыўны. *Нізабытный мой дзіцёначык, век цябе буду ўспамінаць.* Пірагова Мсцісл.

НІЗІБЫЎНЫЙ, *прым.* Незабыўны. *Ета былі нізабыўныі гады — гіройськыя гады.* Б. Хутары Краснап.

НІЗАГОЙНЫЙ, *прым.* Незагойны. *У мяне ета рана нізагойныя: усё мякнець і мякнець.* Пірагова Мсцісл.

НІЗАГОЙНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Незагойлівасць. *Хвершыл гуварїў аб нізагойнысьці маей нагі.* Трубільня Краснап.

НІЗАЛЕГЛЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Незалежнасць. *Ён хочыць нізалеглысьці, штоб нікому ні пыдчыняцца.* Палуж Краснап.

НІЗАМОЛЬНЫЙ, *прым.* Незамольны. *Убіць чылавека — ета нізамольный грех, ета ні прасьціць бог нікому.* Хвёдараўка Краснап.

НІЗАШТА, *прысл.* Нізашто [нізавошта]. *Нізашта, ніпрашта азьдзівялїў ложкай па лбу.* Слаўнае Мсцісл. *Іна нізашта цябе аблаіць, луччы нічыпай.* Арцёмаўка Міласл.

НІЗГРАЙНА, *прысл.* Нязграбна, нядобра. *Нейк нізграйна ўсё пулучылысь, нада нанква зьдзелыць.* Палуж Краснап.

НІЗГРАЙНЫЙ, *прым.* Нязграбны. *Нізграйный хлапец, хто зы яго пойдзя?* Маластоўка Краснап.

НІЗГРЯБНА, *прысл.* Нязграбна, няёмка. *Ён нізгрябна зыхапїў мех на плечы і пыташчыў.* Пірагова Мсцісл. *Так жа нізгрябна ў яго выходзіць, ўсёдно што рукі ў яго ні туды завернуты.* Слаўнае Мсцісл.

НІЗГРЯБНЫЙ, *прым.* Нязграбны, непаваротлівы. *Такі ўжо нізгрябный етый Міхась, ён і ступіць па-людзку ня можыць.* Асавец Крыч.

НІЗДАЛІМЫЙ, *прым.* Неадольны, непераможны. *Горя ў мяне ніздалімыя.* Палуж Краснап.

НІЗДАРОЎЯ, -я, *н.* Нездароўе. *Ніздароўя нейкыя ныпала ны мяне — усё хварэю.* Журбін Бялынкав. *Усё б нічога, здаецца, каб ні ета ніздароўя: пы хаці прайці і то трудна.* Вітрунь Касцюк.

НІЗЕНЬКІЙ, *прым.* Памянш. ад нізкі. *Зьдзелыў нізенькій зэдлік, дык дзеці цэлы дзень зыбыўляюцца кылы яго.* Юркаўка Крыч. *Тыкая нізенькыя яблыня, а сколькі на ёй яблык зырадзіла.* Дубровіцы Клім.

НІЗЁХТЫНЬКІЙ, *прым.* Вельмі нізкі, зусім нізенькі. *А ён такій нізёхтынькій, ніпрыгожый, проста глядзець няможна!* Пірагова Мсцісл.

НІЗІПІРСЬНІЦА, -ы, *ж. бат.* Гусялапка. *Нізіпірсьніца расьцець пы рысьцяробым, на ёй белы цьвет, яе бяруць, як нарыў будзя.* Хвёдараўка Краснап.

НІЗКА, -і, *ж.* Нізка. *Я ўчора нанізаў бальшую нізку шыпшыны, дык ладныя бусы вышлі.* Канічы Касцюк. *Пяць нізык цыбулі. Тры нізкі пацерык.* Хвёдараўка Краснап.

НІЗКА, *прысл.* Нізка, невысока. *Ластыўкі нізка лётаюць — дождж павінін быць.* Асмолавічы Мсцісл. *Канюх ляцеў нізка ныд зямлёй.* Расна.

НІЗЬЛЯЧЫМЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Невылечнасць, незагойлівасць. *Калі косць здаровыя, то мяса нырясцець, а кылі косьць загніець, — ета ўжу нізьлячымысьць.* Маластоўка Краснап.

НІЗМЫГА, -і, *ж.* Нязмога. *Нізмыга мыя ўпраўляцца ўсюдых.* Гібалы Касцюк. *Я б табе пыдсабїў, ды нізмыга мыя.* Палуж Краснап. *Не, нізмыга мне етый мех пыдняць, ато ноды парвесься.* Пірагова Мсцісл.

НІЗНАМА, *прысл.* Невядома. *Нізнама як і выбрыцца зь етыга лесу.* Палуж Краснап.

НІЗНАМЫЙ, *прым.* Незнаёмы. *Зайшоў ды нас нейкій нізнамый, спытаўся, айдзе татка, і пашоў, нічога не скызаўшы.* Пірагова Мсцісл.

НІЗНАРОКЫМ, *прысл.* Незнарок, ненаўмысна. *Ты ні 'біжайся ні мяне: я нізнарокым ударїў.* Цівецкая Краснап.

НІЗНАЧНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Нязначнасць, нязначная рэч. *Зы такую нізначнысць, а так асудзілі мужыка.* Слаўнае Мсцісл.

НІЗНАЧУЧЫЙ, *прым.* Нязначны. *А, ён там у сельсавеце нізначучый: дзілавод, болі нічога!* Пірагова Мсцісл.

НІЗНАШНА, *прысл.* Непрыкметна. *Нізнашна, каб браты пусварыліся з сабой.* Палуж Краснап. *Ныпісаў кырындашом пісьмо, нізнашна нічога, ці рызьбярэць, ці не?* Слаўнае Мсцісл.

НІЗЫБАЎКЫМ, *прысл.* Хутка, не бавячыся. *Вы ж скарей звырычайцесь адтуль! — Ды нам нізыбаўкым, мы заўтра ўжо будзем тут!* Пірагова Мсцісл.

НІЗЫБАЎНА, *прысл.* Незабаўна. *Варька выйшла з хаты і нізыбаўна зьвірнулысь з Тыцяный.* Шумячы.

НІЗЫДАЧА, -ы, *ж.* Незадача. *Во, тыкая мне нізыдача з сеным, усё дождж яго мочыць.* Слаўнае Мсцісл.

НІЗЫНКА, -і, *ж.* Нізка. *Мама цэлыю нізынку бырянкыў купіла.* Тур'я Краснап.

НІЗЬВЕСНА, *прысл.* Невядома. *Нізьвесна, 'ткуль зьявїўся етый прыхадзіміц і дуріць тут народ.* Жэрціно Мсцісл. *Нам нізьвесна, хто ты!* Забычанне Касцюк. *Нізьвесна 'ткуль зыявїўся.* Хвёдараўка Краснап.

**НІЗЬВІНІЦЬ**, *дзеясл.* Выбачыць. *Нізьвініце мяне, кумочкі, што я сяньня п'яный.* Слаўнае Мсцісл.

**НІЗЬВІНЯЦЬ**, *дзеясл.* Выбачаць. *Нізьвіняйця нас, што доўга ні 'твічалі!* Пірагова Мсцісл.

**НІЗЬДЗЬВІЖЫМА**, *прысл.* Нерухома [незрушальна]. *Стыяў трі часы нізьдзвіжыма ны адным месьці і дайжа ні пашываліўсь!* Арцёмаўка Міласл. *Ны рятуньк зьбеглысь уся вуліца, толькі ужу було позна: разбойнік тэй уцёк, а ён забітый ліжаў нізьдзьвіжыма.* Арцёмаўка Міласл.

**НІЗЬЛІЧЫМА**, *прысл.* Безліч, нязлічна. *Там іх нізьлічыма: я шчытаў, шчытаў ды шчот паціряў.* Арцёмаўка Міласл.

**НІЗЬЛЯЧЫМЫЙ**, *прым.* Незагойны, невылечны. *Ета хвароба нізьлячыма.* Дубровіцы Клім.

**НІЗЬЛЯЧЫМЫСЬЦЬ**, -і, *ж.* Незагойнасць, невылечнасць. *Доктар кызаў, што калі ета хвароба ды пяройдзець у мазгі, тады ўжо нізьлячымысьць — памрэць.* Пірагова Мсцісл.

**НІЙДЗЕ**, *прысл.* Нідзе. *Наш кот збродыць — нійдзе нічога ні пыстаў.* Слаўнае Мсцісл.

**НІКАГЕНЬКА**, *прысл.* Нікоганька, зусім нікога. *Зайшоў я ў хату, а там нікагенька, і хата напіта рашчыніна.* Забычанне Касцюк.

**НІКАЛІ**, *прысл.* Ніколі. *Я нікалі ні пайду адна ў лес — баюся.* Слаўнае Мсцісл. *Ватроўкі нікалі ні жывуць ціха, усё сварацца.* Краснаполле. *Трыйня ў калёсых нікалі ні злымаіцца.* Бяседавічы Хоцім.

**НІКАНЕШНЯ**, *прысл.* Неабавязкова. *Піканешня табе сянні ісці двору, зыначуй.* Слаўнае Мсцісл.

**НІКОЛІ**, *прысл.* Ніколі. *Ты йдзі, ды пад ногі глядзі — асьцярожнысьць ніколі ні шкодзіць.* Старае Сяло Мсцісл. *Дзень у дзень п'е. Ніколі цьвярозыга ні пыбачыш.* Парадзіна Мсцісл.

**НІКЫЯНЬНІК**, -а, *м.* 1. Варвас, жэўжык. *Дзеці етыя нікыяньнікі, што толькі яны ні зьдзелыюць.* Хвёдараўка Краснап. 2. Нячысцік. *Нікыяньнік ніхай цябе заб'ець!* Там жа.

**НІЛЬГА**, *прысл.* Нельга. *Па етыму масту нільга праехыць, пытаму што яго пашці пылавіну вясной зьнясло.* Арцёмаўка Міласл. *Нільга табе есьць хлеб.* Хоцімск. *Нідатрога якая — і дыкрануцца ды яе ўжо нільга.* Гібалы Касцюк.

**НІЛЮБЕЗНА**, *прысл.* Агідна. *Нілюбезна было глядзець ны яго, як ён так брыдка крыўляўсь і так, і гэтак.* Ушакі Чэрык.

**НІМА**, *прысл.* Няма. *Пасьля сьмерці каіньня німа.* Канічы Касцюк. *Гэста ж наш кучыраўчык бяжыць — такіх жа выласоў ні ў каго німа.* Ушакі Чэрык. *У мяне німа ні грыша.* Слаўнае Мсцісл.

**НІМАВЕДЫМА**, *прысл.* [Нямаведама], невядома. *Німаведыма, што дзелыць — ці пычынаць касіць, ці пыдыждаць.* Арцёмаўка Міласл. *Іздайся толькі ны цябе, дык німаведыма што выйдзе.* Палуж Краснап. *Ноччу зьбіўсь з дарогі і апынуўсь німаведыма дзе.* Старае Сяло Мсцісл. *Зьлісься німаведыма чаго.* Хвёдараўка Краснап.

**НІМАГДЗЕ**, *прысл.* Няма дзе. *Німагдзе яму гылавы прыхінуць — сірыта ён.* Арцёмаўка Міласл.

**НІМАЗНЫЦЬ**, *прысл.* Невядома.

**НІМАШ**, *прысл.* Няма. *У хаці нікога німаш. Німаш хлеба ны абед, пайдзі да Васіля, пазыч.* Гібалы Касцюк.

**НІМАШЫЦЬКА** [німáшыцькі], *прысл.* Няма. *Німашыцька крупы ў мяне болей і варыць нечыга.* Хвёдараўка Краснап. *Німашыцькі ў мяне тыбаку ны закурку.* Мсціслаў.

**НІМЯРЭЧ**, -ы, *ж.* Немярэч, непралазныя зараслі ў лесе. *Ну і німярэч жа тут! Толькі зьвяр'ю і вадзіцца.* Лешчынка Мсцісл.

**НІМЯРЭЧЧА**, -а, *н.* Немярэч, зараснікі. *У лясу нада хадзіць завідна, ато як зыбярэсься ў німярэчча, што й ня вылізіш.* Слаўнае Мсцісл.

**НІНАВЕРНА**, *прысл.* Няпэўна. *Касьцюк скызаў, што прідзець, але ж ета нінаверна: ён можыць і ні прійці.* Тур'я Краснап.

**НІНАДЗЁЖНЫСЬЦЬ**, -і, *ж.* Безнадзейнасць. *Нінадзёжнысьць у мяне на сэрцы: а што калі ён кінець мяне?* Пірагова Мсцісл.

**НІНАСЛОЎ**, *прысл.* Няўрокам, каб не зрачы. *Ну й жыта расьцець, нінаслоў будзь сказына.* Палуж Краснап.

**НІНАСЬЦЕ**, -я, *н.* Нягода [дрэннае надвор'е]. *Пысьля дожджу па лужынках бурдулі скачуць, кажуць, што ета к нінасьцю.* Слаўнае Мсцісл.

**НІНАЎЦЕЙ**, *прысл.* Нечакана, неспадзёўкі. *Я нінаўцей знайшоў грошы.* Хвёдараўка Краснап.

**НІ-НІ**, *прысл.* Ані [ніяк]. *Прівык брынды біць ны дзярэўні, а ды работы — ні-ні.* Слаўнае Мсцісл.

**НІНЫГЛЯДНЫЙ**, *прым.* Ненаглядны, каханы. *Ніныглядный яе ўхажор прішоў.* Арцёмаўка Краснап.

**НІПАДЧУЖДУ**, *прысл.* Недарэчы, кепска, не накарысць. *Ніпадчужду ты мне ета зрабіў.* Хвёдараўка Краснап.

**НІПРЫТОМНЫСЬЦЬ**, -і, *ж.* Непрытомнасць. *Упаў чылавек у ніпрытомнысьць і ні ведыіць, што робіць.* Забычанне Касцюк. *К чаму ён зрабіў такую ніпрытомнысьць, дзе яго вум быў?* Добрае Мсцісл.

**НІПУЦЯШЧЫЙ**, *прым.* Нягоднік, нікуды не варты чалавек. *Ніпуцяшчый ён хлапец.* Галынец Краснап.

**НІПЫДАЛЕЧУ**, *прысл.* Непадалёку, блізка. *Ніпыдалечу ад дзярэўні крынічка ёсьць.* Маластоўка Краснап.

**НІПЫКАЙНА**, *прысл.* Без споведзі. *Так ён і памёр ніпыкайна.* Асмолавічы Мсцісл.

**НІПЫРЯДЫК**, -дка, *м.* Непарадак. *Нычальнік мыліцынеру дываў жару за ніпырядык.* Мсціслаў.

**НІРАЗУ**, *прысл.* Ніколі. *Болі ніразу ня пойду гуляць.* Іванаўка Хоцім. *Ніразу я ні была ў ціятрі.* Слаўнае Мсцісл. *Я там ні быў ніразу.* Васілеўка Хоцім.

**НІСКІПАЦЬ**, *дзеясл.* Нашчапаць. *Нада загыдзя лучыны ніскіпаць, ніхай ляжыць ды сохніць, а ня то што жодзін раз, калі паліць, тады й скіпаць.* Арцёмаўка Міласл.

НІСКЫЗАНА, *прысл.* Несказана [казачна, незвычайна]. *Ён у мяне малюець, ну проста ніскызана прігожа.* Пірагова Мсцісл.

НІСКЫЗАНЫЙ, *прым.* Невымоўны [казачны, незвычайны]. *У лесі січас прігожысьць ніскызаныя: ат сылаўіныга і другіх птушык пеньня ні адырьвесьсі, слухыючы.* Цівецкая Краснап.

НІСЛУХМЯНЫЙ, *прым.* Непаслухмяны, неслух. *Ён балуўнік бальшэй і ніслухмяный, што ні скажы — ні паслухаіць.* Арцёмаўка Міласл.

НІСЛУШНЫЙ, *прым.* [Непаслухмяны], неслух. *Ніслушныя дзейка, што ей ні гуварі — іна ўсё па-своіму дзелыіць, нікога ні слухыіць.* Горкі Краснап.

НІСПАДЗЕЖНЫ, *прым.* Ненадзейны. *Коні етыя ніспадзежныя — ні дывязуць цябе ў Мугулей.* Палуж Краснап.

НІСПАДЗЕЎКА, -і, *ж.* Неспадзеўка. *Сяньня ў мяне ніспадзеўка: сын прыехыў з Ленінграду.* Пірагова Мсцісл.

НІСПАДЗЕЎНЫ, *прым.* Неспадзяваны, нечаканы. *Ніспадзеўны госьць. Ніспадзеўныя гора ны мяне ныпала.* Юшкі Мсцісл.

НІСПАЖЫТЫЧНА, *прысл.* Ашчадліва. *Ніспажытычна жывець, дык у яго ўсяго і хыпаець, а другей і болі маець, ды распусьціць.* Дубровіцы Клім. *Яны зразу абжыліся добра і жылі ніспажытычна.* Пірагова Мсцісл.

НІСТАННЫЙ, *прым.* Нястройны. *Мыладэй ды ністанный, як гарбуз — як удоўж, так і ўперак.* Бяседавічы Хоцім.

НІ СЬВЕТ, НІ ЗЫРЯ. Дужа рана. *Наш сусед дужа рупатлівы: устаець ні сьвет, ні зыря.* Лешчынка Мсцісл.

НІСЬЦЯРЕГА, -і, *ж.* Неасцярожны. *Во якій ен нісьцярега: лезіць у ваду і чуць ні зытапіўсь.* Пірагова Мсцісл.

НІТ, -а, *м.* 1. Заклёпка. *Обыд рыскалоўсь у катку, нада зьнесьць да кывыля ды на ніт узяць.* Маравілле Касцюк. 2. Ніт у кроснах. *Апусьці ніты ніжы, ато натужыны дужа кросны.* Цівецкая Краснап.

НІТКА, -і, *ж.* Нітка. *Зыцягні мне нітку ў іголку, ато я ні бачу.* Залесавічы Крыч. *Нада ніткі трысьціць.* Горкі. *Ны навої яшчэ многа нітак накручына.* Парадзіна Мсцісл.

НІТУРБОТНЫЙ, *прым.* Нетурботны, неруплівы. *Нітурботный у мяне чылавек, ні аб чым ні пызабоціцца.* Кокатава Мсцісл.

НІЎБЫЧАЙ, *прысл.* Не ў звычаі. *Езьдзіць у Гоміль у нас у ніўбычай, калі нада, у Крічый ездзім.* Краснаполле.

НІЎВАЖНА, *прысл.* Няўважліва, без увагі. *Я зайшоў ды нычальніка, а ён так ніўважна мяне слухаў, што ні знаю, ці пыняў, што я йму гуварі́ў.* Орша.

НІЎВАЖЛІВА, *прысл.* Няўважліва, без увагі. *Ён неяк ніўважліва з намі абышоўся, нібыццым мы яму перашкодзілі.* Асмолавічы Мсцісл.

НІЎВАЖЛІВЫЙ, *прым.* Няўважлівы. *Мой сын такій некій ніўважлівый: можыць скызаць што-небудзь дрэннае пры кунпаніі, аж стыдна зы яго.* Пірагова Мсцісл.

НІЎВАРОТЫК, -тка, *м.* Непаваротлівы. *Хлопіц — ніўваротык, адзін етыга ня зьдзелыя.* Палуж Краснап.

НІЎГАЮШЧЫЙ, *прым.* Незагойны. *У мяне рана ны назе ніўгаюшчыя.* Палуж Краснап.

НІЎДАЛІЦА, -ы, *ж.* Няўдалы. *Пыпаўсь ёй у мужы ніўдаліца нейкыя.* Маластоўка Краснап.

НІЎДАМОГА, -і, *м.* Няўдалы, ні да чаго не здольны чалавек. *Выйшла замуж за нейкыга ніўдамогу.* Свярбілаўка Краснап.

НІЎДОБНА, *прысл.* Нязручна. *Пы купніку касіць ніўдобна.* Краснаручча Раснян.

НІЎЗЫБАВІ, *прысл.* Неўзабаве, у хуткім часе. *Ніўзыбаві і брат прышоў пысьля нас. Ніўзыбаві зы табой і ён прышоў.* Кокатава Мсцісл.

НІЎЗЯТКІ, мн. *л.* Не ўзятка. [Не пад сілу]. *Неміц бачыць, што яго ніўзяткі, нуй дувай уцікаць з горыду.* Тур'я Краснап.

НІЎКА, -і, *ж.* Памянш. ад ніва. *Ніўка мыя зарунела.* Маравілле Краснап. *Ніўка, ніўка, || Аддай маю сілку || А я цябе жала — ||Сілку паціряла.* Жніўная песня. Зарэчча Мсцісл.

НІЎЛАДНЫЙ, *прым.* Такі, якому нельга ўладзіць, дагадзіць. *Ён такей ніўладный, што яму сам чорт ні ўладзіць — усё ні пы яго.* Слаўнае Мсцісл.

НІЎМІРАЮЧЫЙ, *прым.* Неўмірушчы. *Ніўмíраючый ета цьвіток, яго й завуць бясьсмертнік.* Горкі Краснап.

НІЎПРЫЦЯМ, *прысл.* Неўпрыцям. *Мне ета і ніўпрыцям было, што іна крадзіць, пакуль ні пыпала яе на месьці.* Арцёмаўка Міласл.

НІЎСТЫДНА, *прысл.* Не сорамна. *Як табе ніўстыдна глузьдзіць пірыд усімі.* Добрае Мсцісл.

НІЎХАЛЮЖЫЙ, *прым.* Няўклюйны, нехлямяжы. *Такей ужо етый Сьціпан ніўхалюжый, што ні дывядзі бог.* Радзіонаўка Мсцісл.

НІХАЙ, *прысл.* Няхай. *Ну, ніхай ба ты ка мне зайшоў хоць раз, я ж ні раз прасіла цябе.* Ушакі Чэрык. *Лі ваду ў кымягу, ніхай усі п'юць.* Бяседавічы Хоцім. *Зыпалі капшучок, ніхай гарыць — усё сьвятлей будзе.* Барысавічы Клім.

НІХАЙНА, *прысл.* Неахайна. *Карней усягды так дзелыіць ніхайна, цяп-ляп — абы скарей.* Тур'я Краснап.

НІХАЙНЫЙ, *прым.* Неахайны, неакуратны. *У ніхайный хыдзяйкі і 'бед ніўкусный.* Орша.

НІХАЛІПА, -ы, *ж.* Дрэнная мокрая пагода. *Пыднілась тыкая ніхаліпа, што з хаты ня вылізьці.* Людагошч Мсцісл.

НІХЛІМЯЖЫЙ, *прым.* Нехлямяжы, непаваротлівы, нястдольны. *Ён жа мыладэй, ніхлімяжый, нічога ня ўмея рабіць.* Дарагая Крыч. *Ніхлімяжы чылавек ён.* Палуж Краснап.

НІХТО, *займ.* Ніхто. *Ніхто яму ні гуварыў дзелыць етыга, ён сваім надумым зрабіў.* Маластоўка Краснап. *Яму ніхто ня хоча нічога пазычыць, бо ён пірыд усімі абязьверыўся.* Сохана Мсцісл.

НІХУЦАВЫЙ, *прым.* Нехлямяжы. *Етый Міхась Сьціпаный такей ужо ніхуцавы хлопец, ні паверніцца, як мядзьведзь.* Іванаўка Хоцім.

НІЦ, *прысл.* Ніц, нічком. *Ляжыць чылавек ніц і ні шаволіцца.* Пірагова Мсцісл. *Ляж ніц!* Брылёўка Краснап.

НІЦУ́Н, -а, *м.* Пануры чалавек. *Біряжыся етыга ніцуна!* Хвёдараўка Краснап.

НІЦЫЙ, *прым.* Скрытны [пануры]. *Ну і ніцый наш Антон; а дзе штоб ня зьдзелый — нікому ні пыхваліцца.* Канічы Касцюк. *Етый ніцый, усюдых відзіць.* Кокатава Мсцісл.

НІЦЫМ, *прысл.* Ніц. *Ён любіць спаць ніцым.* Брылёўка Краснап. *Ліжаў ніцым, а пысьля пірівярнуўся набык.* Дарагая Крыч.

НІЦЫЯ ЛЫЗА́, *бат.* Ніцая лаза. *Пы нізіным расьцецць ніцыя лаза.* Хвёдараўка Краснап.

НІЦЫЯ СКУ́ЛКА. Глыбокі нарыў, што цяжка прарывае. *У яго пыд пахый села ніцыя скулка, дык ён і рукі пыдняць ня можыць.* Горкі Краснап. *Нырaві яму, як ніцый скулкі, і то ні ўныравіш.* Дарагая Крыч.

НІЦЯ́МЛІВЫЙ, *прым.* Няцямлівы. *Ай, якей ты ніцямлівый хлопіц, я табе міргаю, а ты ні пынімаіш.* Дарагая Крыч. *Етый конь дужа ніцямлівый, ты ня сьпі, бо ён дарогі сам ні найдзіць, саб'ецца.* Арцёмаўка Міласл.

НІЧАГО́, *прысл.* Нічога, так сабе. *Як вы жывіце?— А нічаго сабе.* Маластоўка Краснап. *Дренный быў пупас, коні нічаго ні ўскублі.* Палуж Краснап.

НІЧАГУ́ТКІ, *прысл.* Нічагенька, зусім нічога. *Пылянь, якая роўнядзь — нідзе ні гарушкі, нічагуткі!* Ушакі Чэрык.

НІЧА́С, *прысл.* Не час [няма часу]. *Колькі разоў зьбіраўся зайці, ды ўсё нічас.* Пірагова Мсцісл.

НІШТО́, *займ.* Нішто. *Абпляваў ён мяне, абкархый — зьвёў на нішто.* Пірагова Мсцісл.

НІШТО́ САБЕ, *прысл.* Нішто сабе, добра, нядрэнна. *Ён майстыр — нішто сабе, добра дзелыіць.* Дзіснакіты Мсцісл. *Як вы жывяце?— Ды нішто сабе, спасіба!* Пірагова Мсцісл.

НІШЧА́СНЫЙ, *прым.* Няшчасны, пешчаслівы. *Нішчасный ён чылавек, няйдзець яму ў жыцьці — то жонка памёрла, а цяпер і сам зыхварэў.* Арцёмаўка Міласл.

НІШЧА́СЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Няшчасціць, няшэнціць [не шанцуе]. *Усё яму нішчасьціць, тылань яго знаць такая.* Васілеўка Хоцім.

НІШЧА́СЬЦЯ, -я, *н.* Няшчасце. *Доўга іх ні відаць, ці ні нішчасьця якоя, крый бог, случылыся!* Пірагова Мсцісл.

НІ́ШЧЫЙ, *прым.* Жабрак. *Калі прідзіць біз нас нішчый, дык ты дай яму кусок хлеба — ён і пойдзіць.* Бяседавічы Хоцім. *Нішчыму далі каўрігу хлеба.* Шумячы.

НІШЧЫ́МНІЦА, -ы, *ж.* Нішчымніца, адсутнасць заправы. *Кыбанчык наш здох, дык цельный год нішчымніцу церпім.* Асавец Крыч.

НІШЧЫ́МНЫЙ, *прым.* Нішчымны, посны. *Крупеня сусім нішчымныя, хоць бы ты яе зыбяліла.* Хвёдараўка Краснап. *Німа чым гаршчка затоўч — нішчымныя хлібаім.* Шэвялёўшчына Мсцісл.

НІ́ШЧЫЦЬ, *дзеясл.* Знішчаць, нішчыць. *У садзе ўсі прісады козы нішчаць, ні атбаронісься 'т іх: нада пызадзелыць дзіркі ў гароджы, штоб ні лазілі.* Мсціслаў.

НІЯДО́МЫЙ, *прысл.* Неядомы, чаго ніхто не есць. *Што ты на етым ржышчы нывізаў кыня, тут жа адзін ніядомый мятлюг зыстаўсь.* Слаўнае Мсцісл.

НІЯ́К, *прысл.* Ніяк, ніякім спосабам. *Я ўшчэ ня купаўсь сёліта: ніяк ні адважусь лезьць у ваду.* Мсціслаў. *Піліп ніяк ні расчухаецца пысьля сымагону.* Палуж Краснап. *Ніяк ні ўцямлю, як я сюды трапіў.* Слаўнае Мсцісл.

НІЯ́КІЙ, *займ.* Ніякі. *Ніякі ні Хвёдар, а Тамаш ета кызаў.* Мануйлы Краснап. *Ніякыя атпіраньня ні паможа — усі ведаюць, што ета ты зрабіў.* Старае Сяло Мсцісл. *У мяне ніякай болькі німа: я зусім здаровая.* Шэвялёўшчына Мсцісл.

НІЯ́КІХ САБЕ. Не шманае [і ў вус не дзьме]. *Ён наеўся й ніякіх сабе.* Усцінавічы Краснап.

НО́ВЫЙ, *прым.* Новы. *Я купіў сабе новый картуз.* Расна. *Сістра надзела юпку з новай ліхвай.* Роськаў Касцюк. *Надзеў Антось новыю кашулю, дык быццам і прыгож стаў.* Машавая Краснап. *Вазьмі новэй зілізьняк, будзіць луччы кыпаць.* Парадзіна Мсцісл.

НО́ГАЦЬ, ногця, *м.* Пазногаць. *Ішоў, ды як выціўся ў камінь, дык увесь ногаць зьбіў ны пальцы.* Хоцімск.

НО́ГДЫ, *прысл.* Часамі, выпадкам. *Ні бачыла я яго. Ногды сустрэніш — у другі бок адверніцца.* Старае Сяло Мсцісл.

НОЖ, ныжа́, *м.* Нож. *Твой нож, як брытва, востры.* Ушакі Чэрык. *Вот табе нож, вот відэльцы — рэж мяса!* Пірагова Мсцісл.

НО́ЖЫК, -а, *м.* Памянш. ад нож. *Згубіў я свой ножык, і нечым кырындаш зывастрыць.* Шарэйкі Касцюк. *Я купіў сабе склыданы ножык у кыпірацііві.* Бель Мсцісл.

НО́ЙДЫ, *прысл.* Часамі, выпадкам. *Ня йдзі-ка ты, Ясь, ны вячорку, ато, нойды, табе там каб ня ўськінулі.* Добрае Мсцісл.

НО́НЕШНІЙ, *прым.* Цяперашні. *У нонешнім годзі бульба ні ўрадзіла.* Маластоўка Краснап.

НО́НЫЧА, *прысл.* Цяпер [у гэты час]. *Ноныча прыедзе ныстаўнік.* Хоцімск.

НО́ПІК, -а, *м.* Нецямлівы чалавек. *Нопік ты, нічога ня ведыіш.* Хвёдараўка Краснап.

НО́РАЎ, -ву, *м.* Нораў, звычка. *Кожны чылавек свой нораў меіць.* Шэвялёўшчына Мсцісл.

НОС, -а, *м.* Нос. *Ні кулупай пальцым у носі, ато паліц злымаіш.* Гібалы Касцюк. *Іна як бурдыхнулась носым у гразь, дык во было хохыту.* Куркаўшчына Мсцісл. *Прыгож: нос капылом, а бырыда кляўцом.* Аўчынец Краснап.

НО́ЎДА, ноўды, *прысл.* Часам [выпадкам]. *Прыпусьцім шагу троху, ноўда, каб ні спазьніцца.* Добрае Мсцісл. *Ці няма ў цябе, ноўды, закурыць?* Мсціслаў. *Ноўды ён ня пойдзе, што тады рабіць?* Парадзіна Мсцісл.

НО́ЎКА, -і, *ж.* Навіна, нанава ўзараная цаліна. *Ноўка дае добрый урыджай.* Хвёдараўка Краснап.

НОЎПРЫБЫ́ЛЫЙ, *прым.* Новапрыбылы. *Ета наш ноўпрыбылый хватарант. Ён тут будзіць ныстаўнікам.* Пірагова Мсцісл.

НОЧ, -ы, *ж.* Ноч. *Кыніцеліўся ўсю ноч з конімі і цяпер спаць хачу.* Куркаўшчына Мсцісл.

НО́ЧВЫ, -аў і начоў, *мн. л.* Ночвы [начоўкі]. *Прынясі ночвы, бялізну будзем мыць.* Юр'евічы Клім. *Начоў німа сваіх, дык біда: бегый ды ў людзей прасі.* Халдзееўка Хоцім. *Матка купіла ночвы мыць бяльлё.* Шумячы.

НОЧ-ПРІ-НОЧ, *прысл.* Штоноч. *Ета падумыць толькі. Аўдакім з Карпым ноч-прі-ноч у лес езьдзяць, і лясьнік іх ні спыймаіць.* Б. Хутары Краснап.

НО́ЧЧУ, *прысл.* Уночы. *Зыпытряшыў сьняжок — буря будзя ноччу.* Хвёдараўка Краснап. *Сяньня ноччу была тыкая авантура, што я думаў і сьвету больш ні ўбачу.* Ушакі Чэрык.

НО́ЧЧЫ, *прысл.* Уночы. *Ноччы два арыштанты ўцяклі з вастрогу.* Маластоўка Краснап. *Гэта было сяньні ноччы.* Васілёўка Хоцім.

НО́ШКА, -і, *ж.* Ношка, ноша. *Мыя ношка надта цяжкыя, нада троху адбавіць.* Лешчынка Мсцісл.

НУ, *выкл.* Ну. *Ну, ці скора ты там? Ідзі, я жду.* Ушакі Чэрык. *Ну й конь у цябе — агонь!* Асавец Крыч.

НУВУГО́ЛЬНІК, -а, *м.* Навугольнік, нарожнік, кроквы, што ставяцца на вугол будынку для заснаваньня страхі. *Скора гумно наша будзіць гатова: ужо нувугольнікі ны страсе пыклалі.* Пірагова Мсцісл.

НУДА́, -ы, *ж.* 1. Нуда, сум. *Нуда на серца нейкыя ныпала, ні магу месца сабе знайсьці.* Шэвялёўшчына Мсцісл. 2. Моташнасць. *У мяне нуда нейкая, мабыць вырвіць.* Журбін Бялынкав.

НУ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Нудзіць, муціць, пазываць на ванітаванне. *Мяне нудзіць, хаця каб не вырвыла.* Машавая Бялынкав.

НУ́ДЗІЦЦА *дзеясл.* Нудзіцца, сумаваць. *Хлопіц нудзіцца адзін, а кумпаніі яму німаш.* Забычанне Касцюк.

НУ́ДЫЧКА, -і, *ж. бат.* Ягада касцянка. *Нудычка і кысьцянка — ета ўсё 'дно.* Хвёдараўка Краснап.

НУЖДА́, -ы, *ж.* Патрэба, неабходнасць. *Нужда мяне гоніць ны зарыбыткі, а так ці пашоў бы я!* Пірагова Мсцісл.

НУЖДА́ЦЬ, *дзеясл.* Вымагаць, прымушаць. *Бандзіты сталі нуждаць яго аддаць грошы.* Палуж Краснап.

НУЗДА́ЦЬ, *дзеясл.* Вуздаць, кілзаць. *Нуздай кыня, бо ні зьдзержыш з гары.* Рылаўшчына Мсцісл.

НУКУЛДУЯ́СІЦЬ, *дзеясл.* Накулдаячыць, нагаварыць [незразумела]. *Нукулдуясіў абы-чаго.* Хвёдараўка Краснап.

НУ́МІР, -а, *м.* Нумар. *Мне нада пятый нумір калош.* Слаўнае Мсцісл.

НУПРЭ́Й, -я, *м.* Уласнае імя Ануфрый. *Нупрэй купіў кыня сьляпога на 'дно вока.* Клімавічы.

НУПУСЬЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Напусціць. *Што ты вопыху нупусьціў?* Буглаеўкі Краснап.

НУРЯ́, -і, *ж.* Нура [мучэнне]. *Разі ета жысьць — нура дна, дажы адзець нечыга.* Карма-Пайкі Краснап.

НУТРЭ́Ц, -а, *м.* Нутрэц. *Лігчаный кыбан, а за сьвіньнімі бегыіць — нутрэц ці якоя ліха?* Тур'я Чэрык.

НУТУРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Натурыць, насыпаць, напоўніць. *Натурыў мех поўны як вока і зывізаць неяк.* Хвёдараўка Краснап.

НЫ, *прыназ.* На. *Ціхон, як паедзіш у горыд, купі мне нівялікі слоік ны масла.* Добрае Мсцісл. *Пад стог ны адонішча трэба пыкласьць хвырасту.* Тур'я Краснап. *Сяньні ў лесі я нытрапіў ны ваўчыныя логыва.* Хоцімск.

НЫБІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Набіваць. *Узяў тапор і стаў абручы ны кадушку ныбіваць, а тапор нейк вырвыўсь з рук ды пы назе.* Затоны Расиян.

НЫБНІМА́ЦЦА, *дзеясл.* Наабнімацца. *Ныбнімаўся хлопіц зь дзеўкый, а пысьля і хвост путтуліў.* Палуж Краснап.

НЫБРА́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Набрацца. *Чуць сёньні сорыму я ні ныбралысь — вырваўсь гаплічок з спадніцы.* Ушакова Чэрык. *Ныбраўся сымагону — цяпер уродыя.* Хвёдараўка Краснап. 2. Папраўіцца, набыць сілу. *Жыта, праўда, плахоя, але можа йшчэ ныбярэцца.* Хвёдараўка Краснап. 3. Сабрацца. *Дзе там сорык, там атсілы ныбярэцца дваццыць пудоў.* Палуж Краснап. 4. Заразіцца. *Набраўся нейкый хваробы, а цяпер хварэя.* Там жа.

НЫБРА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Набраць. *Нада ныбраць зёму ў вазоны.* Палуж Краснап. *Мне пупалысь дачка, што зь яе я ныбраў воз сена.* Лешчынка Мсцісл. *Схадзі ў копынь ныбяры вады.* Бяседавічы Хоцім. 2. Назбіраць. *Тут многа ягыд, нада зьдзелыць кузеньку і ныбраць нямнога двору.* Там жа. *Я сыравежык ныбрала, ныраз будзе нысмажыць.* Стары Дзедзін Міласл. 3. Купіць [тканіны]. *Нада зьезьдзіць на места і ныбраць дачке ны плацьця чаго-небудзь, сіццу якога ці што.* Бяседавічы Хоцім. 4. Вышыць. *Мне сістра абіцала ныбраць сарочку, толькі заблыці трэба купіць.* Лешчынка Мсцісл.

НЫБРІКА́ЦЬ, *дзеясл.* Набракаць, набірацца вільгаці. *Сена было сухоя, а паліжала ноч нісkладзіныя, ныбрікаць пычало, заўтрі ізноў сушыць нада.* Слаўнае Мсцісл.

НЫБРЯ́КНУЦЬ, *дзеясл.* Набракнуць, намокнуць. *Хадзіўшы пы балоту, лапці як ныбрякнуць, дык такея цяжолыя стануць, што ні пывылакеш.* Арцёмаўка Краснап. *Мы жжалі зялёныя жыта, а цяпер як пайшоў дождж, яно ныбрякла і прырасло.* Слаўнае Мсцісл. *Гняты ліжалі ўсё лета ў сажылцы, дык дужа ныбряклі.* Кокатава Мсцісл. *Бачоных ныбрякнуў ат вады.* Хвёдараўка Краснап.

НЫБРЯ́НКА, -і, *ж.* Сукенка з куплёнага (набранага) тавару. *Сахвея пашыла сабе ныбрянку, ды красівыя ж.* Палуж Краснап.

НЫВАЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Наваліцца. *Чаго ны цябе тыкая журба нывалілысь, чаго ты зажурыўсь?* Канічы Касцюк. *Нывалілась ны дзяцей якая-то пошасьць.* Паходавічы Чэрык. *Чаго вы, хлопцы, раптам усі нывалілысь ны яго?* Добрае Мсцісл.

НЫВАЛОКА, -і, *м.* Валацуга. *Нывалока ты, чаго ты цігаісься пы хатых абыдзень. Нывалокым нечыга быць, нада за дзела ўзяцца.* Хвёдараўка Краснап.

НЫВАЛЬНІЦА, -ы, *ж.* Навальніца. *Пасеіў лён прі лужку, а ік найшла нывальніца — усё змыла, зьнісла, нада нанывa сеіць.* Брылёўка Краснап.

НЫВАРЫЦЬ, *дзеясл.* Наварыць. *Нываралі мы сёньні чугун картошкі ў мундзірох.* Ушакі Чэрык. *Матка сь сьвінных ног і вушэй нываріла сьцюдзіню.* Гібалы Касцюк. *Я сяньні нываpыла целую махотку бульбы.* Бяседавічы Хоцім.

НЫВАРОПЫЦЬ, *дзеясл.* Накласці шмат [наварочаць]. *На што ты мне кашы столькі нываропыла.* Палуж Краснап.

НЫВАШЧЫЦЬ, *дзеясл.* Навашчыць [пакрыць воскам]. *Нада нывашчыць воскым ніткі, ато калі шыіш, дык петлюцца і за етыга рвуцца.* Слаўнае Мсцісл.

НЫВЫЛАЧЫЦЦА, *дзеясл.* Нахадзіцца [нацягацца]. *І нада ж так навылачыцца, што чуць у хату ўваліўсь, так і заснуў і разуцца ні пасьпеў.* Бяседавічы Хоцім.

НЫВЫРАЧЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Набягаць. *Етык ты жалысна пяеш, аж у мяне сьлёзы нывырачывыюцца.* Слаўнае Мсцісл.

НЫВЯЛІЦЦА, *дзеясл.* Унадзіцца [дзейнічаць настойліва і неадступна]. *Як нывяліўся ён ды нас хадзіць, дык проста хоць ты яго выгыняй з хаты.* Палуж Краснап.

НЫВЯРЗЬЦІ [наверзьць], *дзеясл.* Навярзці, нагаварыць глупстваў. *Болмыт етый чаго толькі ні нывярзець, толькі слухый яго.* Палуж Краснап.

НЫВЯРНУЦЬ, *дзеясл.* Наваліць. *Нывярні камінь зьверху, каб крячэй було.* Палуж Краснап.

НЫВЯСЬЦІ [навесьць], *дзеясл.* Навесці, зрабіць. *Жулікі сваё дзела нывялі.* Гарадзец Бабр.

НЫГА, -і, *ж.* Нага. *Скарей бягі — адна ныга штоб тут, а другая там была.* Парадзіна Мсцісл. *Нейкыя ліха зьдзелылась — нагі сагнуць ні магу.* Дубровіцы Клім.

НЫГАВОР, -у, *м.* 1. Замова, загавор. *Мыя бабушка ведаець многа ныгаворій: і ад зьмяі, і ад ведзьмый, каб мылако ні 'дбірала ў кароў, і розныя другея.* Пірагова Мсцісл. 2. Плёткі, нагаворы. *Ні слухый ты бабскіх ныгаворій — ніпраўда ета.* Тур'я Краснап.

НЫГАВАРЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Нагаварыць, наказаць многа. *Кінь ты слухаць іх! Яны табе ныгаворуць.* Пірагова Мсцісл. 2. Сказаць замову, загавор. *Зынясі бабкі хлеба, ніхай ныгаворыць, а тады дай яму зьесць — пыглядзіш выздырывіць.* Вітрунь Касцюк.

НЫГАТОВІ, *прысл.* Напагатове. *Скарей зьбірайся, я даўно ўжо ныгатові.* Лешчынка Мсцісл.

НЫГІБАЦЬ, *дзеясл.* Нагінаць. *Ён стаў ныгібаць арешіну, а я стала зводыль, штоп пыймаць зы макушку.* Арцёмаўка Міласл.

НЫГЛАДЖЫНЫЙ, *прым.* Выпрасаваны. *Усі мае плацьці вісяць ныгладжыныя, толькі ныдзівай.* Пірагова Мсцісл.

НЫГЛІДАЛЬНІК, -а, *м.* Наглядальнік, наглядчык. *Ён служа ў Крычыві ныглідальнікым у турме. Кыла іх усягды нада ставіць ныглідальніка, бо іначый нічога рабіць ня будуць.* Пірагова Мсцісл.

НЫГНАТЫЙ, *прысл.* Нагнаты, нагнаны. *У суседа поўна пунька ыгната авец.* Лешчынка Мсцісл.

НЫГНАЦЬ, *дзеясл.* Нагнаць. *Я так бег, што аж запышку ныгнаў.* Палуж Краснап. *Мікола пірадзеўся чортым і ныгнаў стрыхаты на дзіўчат.* Сохана Мсцісл.

НЫГРУЗІЦЬ, *дзеясл.* Нагрузіць, накласці. *Бацька ныгрузіў поўны калёсы саломы.* Лешчынка Мсцісл.

НЫГРЫМЯЧЫЦЬ, *дзеясл.* Набіць [надаваць тумакоў]. *Калі толькі зробіш ета — ныгрымячу.* Хвёдараўка Краснап.

НЫГУКАЦЦА, *дзеясл.* Наклікацца. *Ныгукаўся я цябе ў лесі, а ты ні адгукнуўся — ня чуў ці што?* Бяседавічы Хоцім.

НЫГЫВАРЫЦЬ, *дзеясл.* 1. [Нагаварыць], наказаць. *Зводніца ета ныгываріла суседкі, што, быццым, я ны яе гываpыла ўсяго, а тады прішла ка мне ды кажыць, што суседка мяне абгываpівыла.* Арцёмаўка Міласл. 2. Сказаць замову. *Ныгывары яму хлеба ат шалу, яго ўкусіла шалёныя сыбака.* Слаўнае Мсцісл.

НЫГЫНЯЙ, -яя, *м.* [Наганяй], праборка, вымова. *Я пулучыў ат вучыціля ныгыняй, што ня вывучыў урока.* Слаўнае Мсцісл.

НЫГЫТЫВАЦЬ, *дзеясл.* Нагатаваць [нарыхтаваць]. *Ці ныгытывала ты апары сьвіньнім?* Палуж Краснап.

НЫДАБРЫДНУЦЬ, *дзеясл.* Абрыднуць. *Ныдабрыдла мне хадзіць туды.* Маластоўка Краснап.

НЫДАЕДА, -ы, *ж.* Надакучлівы чалавек, назола. *Ня будзь ты ныдаедый, усё сваё трубіш.* Палуж Краснап.

НЫДАЕСЬЦЬ, *дзеясл.* Надакучыць, абрыдзець. *Ныдаела ўжу глядзець на іх цокыньня, усё ні ныцалуюцца.* Арцёмаўка Міласл. *Ныдаеў ты мне, тышныта нівідзімыя!* Хвёдараўка Краснап.

НЫДАІЦЬ, *дзеясл.* Надаіць. *Сяньні я ныдаіла целую даёнку пыстыялкі.* Бяседавічы Хоцім.

НЫДАЙЦІ, *дзеясл.* Надыйсці. *Ныдайдзе час, і мы будзім жыць, як людзі жывуць.* Орша.

НЫДАРЭНЬДЗІ, *прысл.* Абы як, не на месцы. *Ні стаў гаршчок ныдарэньдзі, ато рызаб'юць.* Кокатава Мсцісл.

НЫДАЦЬ, *дзеясл.* Надаць, падштурхнуць. *Ныдаў мяне чорт узяцца за ета дзела.* Сохана Мсцісл.

НЫДДАТЫК, -тку, *м.* Дадатак. *Апріч месічный платы я пулучыла яшчэ ныддатык.* Слаўнае Мсцісл.

НЫДЗЕЛЫЦЬ, *дзеясл.* Нарабіць. *Авой, што ты тут ныдзелыў!* Мазалава Мсцісл.

НЫДЗЕРЦЬ [ныдраць], *дзеясл.* 1. Надзерці. *Дос табе брындыць бязь дзела, схадзі ты хуць у лес лык ныдзяpі.* Арцёмаўка Міласл. *Ныдзяpі-ка ты бярёсты ды спляці бірісьцянку ў ягыды хадзіць.* Слаўнае Мсцісл. 2. Нацерці. *Ныдзяpі бульбы, дык я табе сьпяку смашную драчону.* Там жа.

НЫДЗІВАЦЬ, *дзеясл.* Адзяваць [апранаць]. *Ныдзівай сяньні шапку, ато холыдна*

*будзіць — мяцеліца быльшая ны дваре.* Бяседавічы Хоцім.

НЫДКАЛУПІЦЬ, *дзеясл.* Надкалупаць. *Што ета зы работа; хлеб ныдкалупіць кожнũю булку ды пакінець — нада нажом рэзыць.* Стары Дзедзін Міласл.

НЫДКАЛУПЛІНЫЙ, *прым.* Надкалупаны. *Етыя булка нейкыя ныдкалупліныя, дайце мне другую.* Пірагова Мсцісл.

НЫДМАГІЛЬНІК, -а, *м.* Месца над могілкамі. *Могільнік у нашай дзярэўні знаходзіцца ў райку, а ныдмагільнік увесь зарос бярэзьнікам.* Пірагова Мсцісл.

НЫДНІК, -а, *м.* Скнара, скупы. *Ета такій ныднік, што ні за што ні дасьць — у яго сьнегу на новый год ні выпрасіш.* Орша.

НЫДРУГАЦЦА, *дзеясл.* Здзеквацца. *Во ужу ныдругаіцца над ёю мужык: і б'ець і з хаты гоніць, усё ройна, як іна яму зыпрыданыя ікая.* Арцёмаўка Міласл.

НЫДУБЫРЫЦЦА, *дзеясл.* Падняцца, шатапырыцца [стаць дубарам]. *Шчаціна ў сьвіньні ныдубырылась.* Палуж Краснап.

НЫДЫРВАЦЦА, *дзеясл.* Надарвацца, знясілецца. *Дзіцёнык так крычэў, што я думула ныдарвецца крычэўшы. А што ты думаіш, можа і ныдырвацца.* Арцёмаўка Міласл. *Ета ж можна ныдырвацца, па сем пудоў пыдымаўшы.* Слаўнае Мсцісл.

НЫЖАЛІЦЦА, *дзеясл.* Наскардзіцца. *Адзін хлопчык ныжаліўсь ныстаўніку на другога.* Пірагова Мсцісл.

НЫЖАРЫЦЬ, *дзеясл.* Напячы, насмажыць. *Маці ныжарыла катлет ны масьлі.* Арцёмаўка Міласл.

НЫЖАЦЬ, *дзеясл.* Нажаць. *Дзянёк пыпыжалі — тры копычкі ныжалі.* Касперка Міласл. *Ныжала бульбоўніку ды дыла кароеі. Палуж* Краснап. *Я сяньні ныжала дзесіць абабкуў жыта.* Бяседавічы Хоцім.

НЫЗАД, *прысл.* Назад. *Хворэй атхінуў ныза гылаву і памёр.* Арцёмаўка Міласл. *Сьпірша пабег за ім, а калі той пыкызаў ліволььвер, дык ён ныза.* Старае Сяло Мсцісл.

НЫЗАДЗЕ, *прысл.* Ззаду. *Падводы ехылі разым, толькі адна зыстылась ныза∂зе.* Маластоўка Краснап.

НЫЗДРЯ, -і, *ж.* Наздра. *Што й та ў цябе ныздря распухла і крясныя?* Краснаполле.

НЫЗНАНКУ, *прысл.* Навыварат, на левы бок. *Нейкыя ніажыдынысьць будзець — кохту надзела ызнанку. Ета мацерія нылцо хужы, чым нызнанку.* Слаўнае Мсцісл.

НЫЗЫВАЦЦА, *дзеясл.* Называцца. *Ссоў пластоў зямлі па кніжныму называіцца зьдзьвіг.* Бяседавічы Хоцім. *Ідзі прынясі з выкна чарку, січас і вып'ім, што нызываіцца.* Канічы Касцюк.

НЫЗЫПАСЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Назапасіцца. *Трэба ныпасывыцца к зіме ягадымі, грібамі.* Палуж Краснап.

НЫЗЫПАСЬЛІВЫЙ, *прым.* Запаслівы, ашчадлівы. *Чылавек ён нызыпасьлівый, у яго ўсяго ёсьць патроху.* Палуж Краснап.

НЫЗЫПРАЎДЫ, *прысл.* Даправды, сапраўды. *Не, нызыпраўды, як ета ў вас трапілыся?* Пірагова Мсцісл.

НЫЗЫПЫСАЦЬ, *дзеясл.* Назапасіць, зрабіць запас. *Сталі ўсяго нызыпысаць ак зіме.* Палуж Краснап.

НЫЗЫЎСЯГДЫ, *прысл.* Назаўсёды. *Запомні нызыўсягды, што ета ні тваё дзела, біс цябе тут абыдзецца.* Шумячы.

НЫЗЬБІРАЦЬ, *дзеясл.* Назбіраць. *Я сяньні ныльбіраў торбу лісавык* (дзікіх лясных яблыкаў). *Пайці нешта ў сад падылікаў нызьбіраць?* Хвёдараўка Краснап.

НЫІДАЦЦА, *дзеясл.* Наядацца. *Калі б кожный дзень так ныідацца, як сяньні,— добра было б жыць на сьвеці.* Мануйлы Краснап.

НЫІКЫТАЦЦА, *дзеясл.* Наенчыцца. *Ой жа й холыдна была, за дзень настыла, ныікыталысь, насілу 'тагрелысь ны пячы.* Маластоўка Краснап.

НЫЙМАЦЦА, *дзеясл.* Наймацца. *Сёмка пайшоў ныймацца ны работу.* Палуж Краснап.

НЫЙМАЧ, -а, *м.* Той, хто наймае. *Вунь там стаіць мой летышній ныймач, ён сёлета зноў хочыць мяне ныняць.* Пірагова Мсцісл.

НЫЙНАЧЫ, *прысл.* Не інакш. *Ён і так хлопіц ладный, а йшчэ ныйначы кымсамоліц.* Кокатава Мсцісл. *Яму ня трудна будзіць іх там пыбдуріць: ім што ні скажы, дык яны паверуюць, а ныйпачы яму.* Арцёмаўка Міласл.

НЫКАЛОЦЬ, *дзеясл.* Накалоць. *Хацеў я нырваць агрісту, ды толькі рукі ныкалоў аб бадзюлькі, а агрісту таго ўпацёмкых ні нымацыў.* Арцёмаўка Міласл.

НЫКАЛУПЛІНЫЙ, *прым.* Накалупаны. *Кызаў хлеба ні кулупаць, ато ліжаць ныкалупліныя кускі, і ніхто есьць іх ні хочыць.* Маластоўка Краснап.

НЫКАМЕЧЫЦЬ, *дзеясл.* Накамячыць. *Плахоя тваё борыньня, ныкамечыць ён табе быкі.* Палуж Краснап.

НЫКАНЕЦ, *прысл.* Нарэшце. *Ныканецтыкі я рышыла зыдачу.* Слаўнае Мсцісл.

НЫКАННІКІ, -аў, *мн. л.* Ыканне, бадзянне. *Ныканнікі етыя толькі работу атымаюць: зыараў тут гоні — пііжджай у другоя места.* Горкі Краснап.

НЫКАПЫЦЬ, *дзеясл.* Накапаць. *Заныч ныкапыла целыя карыцца бярёзувіку.* Бяседавічы Хоцім.

НЫКАТЫ, -ыў, *мн. л.* Каляіны на дарозе. *Пыцягнуліся етыя ныкаты, куды пашоў мілый у сылдаты.* Хвёдараўка Краснап. *Ны дарозі ныкаты глубокія.* Арцёмаўка Міласл.

НЫКВАКЛІЦЬ, *дзеясл.* Намазаць тлустым. *Ныкваклій сыпагі салым аж цьвякчыць.* Хвёдараўка Краснап.

НЫКІРУВАНЫЙ, *прым.* Накіраваны. *Конь пайдзець сам, ныкіруваный ны дарогу.* Горкі Краснап.

НЫКЛАДЗІНЫЙ, *прым.* Накладзены. *Сена ў пуні дужа многа ныкладзіна, аж яно выпіраіцца у вароты і іх нільзя зачыніць.* Арцёмаўка Міласл.

НЫКЛАДНО, *прысл.* Накладна, дорага. *Ехыць па етыму дзелу ў Мугулёў — дужа ныкладно.* Палуж Краснап.

НЫКЛАНІЦЦА, *дзеясл.* Нагнуцца. *Каб ты ні ныкланіўся, пупала б табе па гылаве.* Васілёўка Хоцім.

НЫКЛАСЬЦЬ, *дзеясл.* Накласці. *Ны-*

*клала поўны кораб яец — буду прыдываць.* Краснаполле. *Ныклала плацьця поўна жлукта.* Ельня Краснап. *Ныклалі ны мыжару сена ўровінь з драбінымі.* Парадзіна Мсцісл.

НЫКЛІПАЦЬ, *дзеясл.* Накляпаць. *Дзе ты дзеў асялок, мне нада касу найстрікь. Нада было і ныкліпаць, ды ужу ніхай да вечыру.* Арцёмаўка Міласл. *Прынясі-ка мне мылаток і бабку, нада ныкліпаць касу, заўтрі касіць пойдзем.* Бяседавічы Хоцім.

НЫКЛЫПАЦІЦЦА, *дзеясл.* Наклапаціцца. *Ныклапацілася я за цэлый дзень, аж ногі ломяць.* Пірагова Мсцісл.

НЫКРАШЫНЫЙ, *прым.* Нафарбаваны. *Зыйшла я за сцэну, а там усі ныкрашыныя, з вусамі, так што й ні пызнаіш нікога.* Пірагова Мсцісл.

НЫКРУСУВАЦЦА, *дзеясл.* Накрасавацца. *У маткі было хырашо; толькі й ныкрусувалысь, пакуль замуж вышла.* Арцёмаўка Міласл.

НЫКРЫШЫЦЬ, *дзеясл.* Накрышыць. *Ныкрышы буракоў і троху капусты, зварім варіва.* Слаўнае Мсцісл.

НЫКРЯШЫНЫЙ, *прым.* Нафарбаваны. *Пышла нейкыя дзеўка з ныкряшынымі губамі.* Краснаполле.

НЫКУЛУПАЦЬ, *дзеясл.* Накалупаць. *Пымалу ныкулупаў цельный кухлік мёду.* Пірагова Мсцісл.

НЫКУРЫЦЬ, *дзеясл.* Накурыць, напусціць дыму. *Во ныкурілі! Адчыні дзьверы, хай хата вывітрыцца.* Парадзіна Мсцісл.

НЫКЫЗАЦЬ, *дзеясл.* 1. Пакараць. *Астрашка нада: пачуюць, як аднаго ныкызалі — другея будуць быяцца.* Касперка Міласл. 2. [Перадаць наказ].

НЫКЫПАЦЬ, *дзеясл.* Накапаць. *Ныкыпай глею, будзем хату бяліць, ато мелу німа йдзе купіць січас.* Слаўнае Мсцісл. *Вазьмі кыпач ды гною ныкыпай.* Хвёдараўка Краснап. *Мы сёліта бульбы шмат ныкыпалі.* Гусарка Клім.

НЫКЫРЯСКЫЦЦА, *дзеясл.* Прывязацца, прычапіцца. *Ныкыряскыўсь ды мяне нізнамый, насілу аткыряскылась ат яго.* Мсціслаў.

НЫКЫСАЦЦА, *дзеясл.* Прычапіцца, прыстаць. *Во ныкысаўсь аторва, ніяк ні атчапіцца ат яго.* Палуж Краснап.

НЫКЫСЯК, *прысл.* Накасяк. *Сячы проста, ато ты сячэш неяк ныкысяк.* Шэвялёўшчына Мсцісл. *Ён сек дрэва ні пряма, а ныкысяк.* Слаўнае Мсцісл.

НЫКЫЦЬ, *дзеясл.* Швэндацца. *Ні ныкый, бо ні нойдзіш, далёка зыкацілыся.* Кокатава Мсцісл. *Нешта ты ўсё ныкыіш, што йта з табою сёньня?* Маластоўка Краснап.

НЫЛАВІЦЬ, дзеясл. Налавіць. *Мы сяньня нылавілі піськіжоў.* Затоны Расняп. *Вуюноў цэлыя вядро нылавіў.* Хвёдараўка Краснап.

НЫЛАДНЫГА, *прысл.* Намнога, нашмат, назначна. *Я ныладныга спазьніўся сяньні.* Хвёдараўка Краснап.

НЫЛАЖЫЦЬ, *дзеясл.* Накласці. *Ныла-жылі бальшую пошліну ны зыгранічныя тывары, таму яны і дорыгі так сталі.* Бяседавічы Хоцім. *Нылажы гуркі камінім, штоб ні ўсплывалі наверх, ато загніюцца.* Забычанне Касцюк.

НЫЛАШЧОНІЦЬ, *дзеясл.* 1. Накрахмаліць. *Вазьмі зывары крыхмал, нада сарочкі нылашчоніць.* Слаўнае Мсцісл. 2. Наглянцаваць, наваксаваць. *Ого, як боты нылашчоніў ваксый, хуць ты глядзіся ў іх.* Там жа.

НЫЛУМАЦЬ, *дзеясл.* Наламаць. *Як пойдзіш у лес, нылумай там кылыкалушы.* Шэвялёўшчына Мсцісл. *Нылымай-ка бацьвіньня, ды і кылі і бурачок вырвіцца, дык нічога.* Арцёмаўка Міласл.

НЫЛУПІЦЬ, *дзеясл.* Налупіць, нааблупліваць. *Баба прінесла морквы, бручкі нылупіла, дык мы там елі і я яшчэ двору прынёс.* Арцёмаўка Міласл.

НЫЛЫМАЦЬ, *дзеясл.* Наламаць. *Нылымай сьвіньнім бацьвіньня.* Хвёдараўка Краснап. *Нылымай ны грідах бацьвіньня, зварім варіва.* Слаўнае Мсцісл.

НЫМАГІЛЬНІК, -а, *м.* Намагільнік [помнік]. *Як ты пымреш, дык я табе асінувый крыж і дубовый нымагільнік здзелыю.* Бяседавічы Хоцім. *Паны нымагільнікі ставюць, а мужык і на хрэст грошы ні зьбярэць.* Палуж Краснап.

НЫМАЗЫЦЬ, *дзеясл.* Намазаць. *Нымазыла я маслым хлеба і дыла яму, а ён масла зьлізаў, а хлеб пылажыў на слоніц.* Гарадок Расняп.

НЫМАЛАЦІЦЬ, *дзеясл.* Намалаціць. *Нымалацілі — ні на семя, ні на емя.* Парадзіна Мсцісл.

НЫМАСТЫР, -а, *м.* Манастыр. *Іна хадзіла далёка некуды ў нымастыр, айдзе мынахі жывуць, дык рысказывала і мошчы відзіла.* Арцёмаўка Міласл.

НЫМАСЬЛІНЫЙ, *прым.* Намаслены, намазаны маслам. *Хлеб нымасьліный, ета хыряшо, а вот чай біс сахыря — ета ужу плоха. Вылaсы ў яго нымасьліныя, аж блісьцяць.* Краснаполле.

НЫМАСЬЛІЦЬ, *дзеясл.* Намасліць, намазаць маслам. *І нада ж так нымасьліць хлеб, што ажно цякець з яго алей.* Бяседавічы Хоцім.

НЫМАТАЦЬ, *дзеясл.* Наматаць, насукаць. *Нымытай на цэўку нітык, ато ткаць нечым.* Парадзіна Мсцісл.

НЫМАТЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Намотвацца, накручвацца. *Як сукала добрыя, дык і ніткі роўнінька нымытывыюцца на цэўку.* Слаўнае Мсцісл.

НЫМАЧЫЦЬ, *дзеясл.* Намачыць. *Мы нымачылі пяньку ў сажылцы, а лён у рэчкі.* Стары Дзедзін Міласл. *У пазылкі трэба бяльлё нымачыць.* Горкі Краснап.

НЫМІРА, -оў, *мн. л.* Дзіцячая гульня. *Пойдзім, хлопцы, ны пынадворык і будзім гуляць у нымыра.* Шарэйкі Касцюк.

НЫМЫЛАЦІЦЬ, *дзеясл.* Намалаціць. *Мы сяньні с асеці нымылацілі шэсьць аторніц аторы.* Бяседавічы Хоцім.

НЫМЫТАЦЬ, *дзеясл.* Наматаць. *Нымытала поўныя верцяно нітык.* Касцюковічы Крыч. *Ны мытавіла нымыталі пяць хунтуў пряжы.* Слаўнае Мсцісл.

НЫМЯСЬЦІ [намéсьць], *дзеясл.* Намесці. *За ныч нымяло такую гурбу сьнегу, што й дзьвярэй ні адчыніць.* Дубровіцы Клім.

НЫМЯЦЬ, *дзеясл.* Нацерці. *Нымялі сяньні тры павесны пысканьней.* Брылёўка Краснап.

НЫНАРУ́ГУ, *прысл.* Назлосць. *Дзеўка нынаругу бацьком пыйшла зы яго замуж.* Палуж Краснап.

НЫНАСІ́ЦЬ, *дзеясл.* Нанасіць. *Пчолы нынасілі повін вулей мёду.* Сохана Мсцісл. *Нынасі вады ў лазьню ды зытапі, штоб к вечыру гатова была.* Зоры Чэрык.

НЫНЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Наняцца. *Сапрон ныняўся вазцом у Касцюковічы.* Палуж Краснап. *Людзі кажуць: «Ныняўся — як прыдаўся».* Дарагая Крыч.

НЫНЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Наняць. *У хызяйстві німа каму работыць, прыдзіцца нынянь бытрыка.* Слаўнае Мсцісл. *Вызца я ўжо ныняў, зараз пад'едзе.* Бакунавічы Чэрык.

НЫПАВЕ́Р, *прысл.* Напавер. *Дай мне ета ныпавер, а ў суботу грошы 'ддам.* Хвёдараўка Краснап.

НЫПАІ́ЦЬ, *дзеясл.* Напаіць. *Дзядзька, дай цыбаркі кыня ныпаіць.* Горня Хоцім. *Ці ныпаіў ты кыня? Хлыпца ныпаілі ды п'яна.* Шэвялёўка Мсцісл.

НЫПАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Напаліць. *Во печку ныпалілі, што нілізя падыйсці. Ныпалілі вапны.* Пірагова Мсцісл. *Ныпалілі печ, аж чырвоныя стала.* Ушакі Чэрык.

НЫПА́ЛЬВЫЦЬ, *дзеясл.* Напальваць. *Ні нада было так ныпальвыць печку: дужа душна — аччыні трохі дзьвері.* Брылёўка Краснап.

НЫПАМІ́Н, -у, *м.* Напамінак. *Як пойдзіш к ім, зьдзелый там ныпамін, што ў пынядзелык у нас мылыцьба.* Пірагова Мсцісл.

НЫПА́РІЦЬ, *дзеясл.* Напарыць. *Ныпарілі цэбірь мякіны і пынясьлі каровым.* Арцёмаўка Міласл. *Дзівасільніку ныпаріць нада.* Касперка Міласл.

НЫПАСЬЛЕ́ДЫК, ныпасьле́дку, *прысл.* Напаследак [у заключэнне]. *Хадзем, хлопцы, у шынок, хоць пыгуляім ныпасьледык.* Ушакі Чэрык. *Пракоп лаіў, лаіў племеньніка, а ныпасьледку схапіў яго зы каўнер ды выштурхнуў вон.* Палуж Краснап.

НЫПА́СЬЦЬ, *дзеясл.* Напасці, натрапіць. *Хлопіц ныпаў у лесі ны зыйца. Пустушкі ныпалі ны вуціныя гняздо.* Палуж Краснап.

НЫПІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Напяваць, спяваць ціха. *Што ты ныпіваеш сабе пад нос? Зысьпівай ўголыс.* Юшкі Мсцісл.

НЫПІНА́ЦЬ, *дзеясл.* Напіраць. *Ён стаў ныпінаць на тоя, штоб і яму выдзілілі часьць.* Арцёмаўка Міласл.

НЫПІСА́ЦЬ, *дзеясл.* Напісаць. *Ныпісаў мне дыстывярэньня, тады прымыкаткый прыціснуў.* Палуж Краснап. *Макрыда ныпісала мне пісьмо, але ніяк ні зьбярусь ёй аткызаць.* Старае Сяло Мсцісл. *Німа чым пісьмо ныпісаць — чарніла ўсё высыхла.* Арцёмаўка Міласл.

НЫПРА́ВА, *прысл.* Направа, у правы бок. *Куды тут ехыць, ныправа ці налева? А дывай паедзім ныправа.* Юшкі Мсцісл.

НЫПРА́ВІЦЬ, *дзеясл.* Направіць, паправіць. *Твой левый сапог скрывіўся, зынясі ты яго к сапожніку,ніхай ныправіць.* Прусіна Касцюк. *Ныправілі масты, ато́ дык ні праехыць ні прайціць було.* Маластоўка Краснап.

НЫПРА́ДЫЦЦА, *дзеясл.* Набегацца. *Ныпрадыўся за дзень, дык заснуў.* Хвёдараўка Краснап.

НЫПРАЛЁТ, *прысл.* Наўсцяж [ад канца да канца]. *Прысядзеў увесь дзень ныпралёт, а работа стаіць.* Хвёдараўка Краснап.

НЫПРАНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Апрануцца. *Ныпрані сваю ныпратку.* Кокатава Мсцісл.

НЫПРАРО́КЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Напрарокаваць. *Ён мне ныпрарокывыў, што ў нашым двары сёліта пыкража трапіцца.* Пірагова Мсцісл.

НЫПРА́СЬЦЬ, *дзеясл.* Напрасці. *Сяньні я досьвітку аднарушнік ныпрала, а тады ўжо у печы паліць стала.* Палуж Краснап.

НЫПРА́ТКА, -і, *ж.* Вопратка. *Ныпратка мыя ўся ўжо знасілысь і ныпрануць нечыга.* Кокатава Мсцісл.

НЫПРІМЕ́ЦІЦЬ, *дзеясл.* Нагледзець [узяць на прыкмету]. *Ныпрімеціў я сабе двух дзіўчат, на Кылядых паеду ў сваты.* Пірагова Мсцісл.

НЫПРІТА́ЦЦА, *дзеясл.* Апранацца. *Стаў я ныпрітацца, каб пайсьці туды, аж Сымон кажыць, што сход адменін.* Палуж Краснап.

НЫПРЯКУ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Нагарэзаваць. *За што цябе маці біла, ныпрякудзіў нійначый?* Брылёўка Краснап.

НЫПРЯ́МЫК, -мка, *м.* Напрамак. *Ён узяў такей ныпрямык, улева, пряма на лес.* Бяседавічы Хоцім. *Ну які́й ныпрямык мы возьмем, нічога ня відна? Дывай сабе паедзем ныправа.* Пірагова Мсцісл.

НЫПРЯНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Апрануцца. *Мне не у вошта ныпрянуцца, дай свайго кажуха.* Дубеец Касцюк.

НЫПРЯ́ТКА, -і, *ж.* Вопратка. *Добрыя ныпрятка ў етыга чылавека, хуць які́й мароз, дык ні зьмерзьніць.* Бардзіч Краснап.

НЫПРЯ́ТУВЫЦЦА, *дзеясл.* Апратвацца [апранацца]. *Ныпрятувыйсь пыцяплей, ато дужа сьцюдзёныя надвор'я сяньні.* Бяседавічы Хоцім.

НЫПРЯ́ТЫЦЬ, *дзеясл.* Накласці [высока], біткөм набіць. *Сапрон ныпрятыў сеным воз, як каню павесьці.* Палуж Краснап.

НЫПУГА́ЦЬ, *дзеясл.* Напужаць. *Дзітвыра справілі такі віск, што хоць ты ўцікай, так іх нехта ныпугаў.* Добрае Мсцісл.

НЫПУСЬЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Напусціць. *Ён дужа любіць страху ныпусьціць, хуць сам ківу пужаіцца.* Арцёмаўка Міласл.

НЫПЫГАТО́ВІ, *прысл.* Напагатове. *Ён сядзеў, як на вугальлі, ныпыгатові бегчы кожную мінутку.* Пірагова Мсцісл. *Мы былі ныпыгатове, калі прыехылі зы намі.* Чэрыкаў.

НЫПЫДА́ЦЬ, *дзеясл.* Нападаць. *Ны мяне ты біспрічынна ныпыдаіш, я тут ні ў прычыні, я нічога ні знаю аб етым.* Арцёмаўка Міласл.

НЫПЫТА́ЦЬ, *дзеясл.* Напытаць, даведацца, разведаць. *Ныпытай-ка, ці ні купілі б там нашу карову?* Хвёдараўка Краснап.

НЫПЯ́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Нацягнуць [цеснае]. *Нашто ты ныпяліў мае штаны біз спросу?* Палуж Краснап.

НЫПЯ́РСТЫК, -тка, *м.* Напарстак. *Шыла́ біз ныпярстка, дык усі пальцы пыкалола.*

*А дзе ж ты свой нып'ярстык дзела, згубіла ці што?* Камінка Мсцісл.

НЫПЯЦЬ, *дзеясл.* Напяць [расцягнуць на апорах]. *Цыгані сваеі шатры ўжо нып'ялі — нычуваць будуць.* Палуж Краснап.

НЫПЯЧЫ [напе́ч], *дзеясл.* Напячы. *Нынікла маковічкый троху.* Хвёдараўка Краснап. *Мама, нынячы сяньні латык.* Сапрынавічы Мсцісл.

НЫРАБІЦЬ, *дзеясл.* Нарабіць. *Ідзі, пыглядзі, што табе там нырабілі гармідыру ў хаце!* Пірагова Мсцісл. *Ну, й нырабіла! Аяё!* Старае Сяло Мсцісл. *Трэба абыйці поля, абгледзіць, каб канюхі ні нырабілі шкоды.* Сохана Мсцісл.

НЫРАБО́ТЫЦЦА, *дзеясл.* Напрацавацца. *Нырaботыліся мы за ету нядзелю, проста рук ні рызьмяць!* Пірагова Мсцісл.

НЫРА́ВІЦЦА, *дзеясл.* Падабацца. *Зыўсігда мне ныравіцца езьдзіць трюшком.* Слаўнае Мсцісл. *Мне ныравіцца етыя дзяўчына, прігожыя іна.* Старына Мсцісл.

НЫРАВІ́ЦЬ, *дзеясл.* Наравіць, дагаджаць. *Ныраві яму, як той ніцый скулкі — усё роўна ні ўныравіш.* Дарагая Крыч. *Ныраві, дзіцятка, усім, у чужых людзей жывучы.* Кокатава Мсцісл.

НЫРАДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Нарадзіцца. *Нада ж было ныраддзіцца на сьвет такою калекыю.* Слаўнае Мсцісл.

НЫРАЗЛО́Г, *прысл.* На растэрміноўку. *Машыны можна купляць, іх прыдаюць ныразлог.* Палуж Краснап.

НЫРА́ЗНА, *прысл.* Паасобку. *Мы з братым сталі жыць ныразна.* Палуж Краснап.

НЫРАІ́ЦЬ, *дзеясл.* Нараіць. *Во, мне як ныраілі жонку, дык целый век буду знаць, як людзей слухаць.* Бяседавічы Хоцім.

НЫРА́НЫК, *прысл.* Раніцаю [на ранкі]. *Сталі ўжо кароў гыняць ныраnык.* Маластоўка Краснап.

НЫРАСЬЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Нарасціць, нагадаваць. *Во лапка: мяса нырасьціла, як кормніца.* Хвёдараўка Краснап.

НЫРА́Ў, -ву, *м.* Нораў. *Ныраў у яго такей — любіць, штоб усё пы яго было.* Негін Касцюк. *Ні хачу купляць кыня, ён мне ні пы ныраву.* Палуж Краснап.

НЫРАЧЫ́ТА, *прысл.* Назнарок, наўмысля. *Я ныраччыта за етым і прышоў.* Кокатава Мсцісл. *Пышоў ныраччыта пыглядзець кыня.* Хвёдараўка Краснап. *Ныраччыта прышоў, каб цябе ўбачыць.* Кокатава Мсцісл.

НЫРВА́ЦЦА, *дзеясл.* [Надарвацца]. *Дос табе плакыць, ці ты йшчэ ні нырвалыся?* Хвёдараўка Краснап.

НЫРВА́ЦЬ, *дзеясл.* Нарваць. *Хацеў я агрісту нырваць, ды толькі рукі ныкалоў.* Арцёмаўка Міласл. *Трэба будзе нырваць багуну.* Касцюковічы. *Дзеці нырвалі васількоў па жыці.* Ушакі Чэрык.

НЫРЕ́Ц, нырца́, *м.* Ныpэц. *Сёмка нырьца даў, дык дужа доўга быў пуд вадой.* Брылёўка Краснап.

НЫ́РКЫЎКА, -і, *ж.* Ныранне. *Доўгыя твыя ныркыйка.* Хвёдараўка Краснап.

НЫРУБІ́ЦЬ, *дзеясл.* Насекчы. *Іна нырубіла скарей мяса і ныжарыла катлет ны масьлі.* Арцёмаўка Міласл.

НЫРУДЗЯМЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Забруднець, зарасці гразёю. *Так нырудзямеў у рабоці, што й лазьня руду ні атмыла.* Буглаеўкі Краснап.

НЫРЫБРА́К, *прысл.* Проста, ясна, рашуча. *Трэба ета скызаць нырыбрак.* Хвёдараўка Краснап.

НЫРЫСКЛА́Д, *прысл.* На расклад, на растэрміноўку. *Купіў мылытарку нырысклад.* Палуж Краснап.

НЫРЫСПАЛО́Г, *прысл.* На растэрміноўку. *Купіў кыня нырыспалог.* Палуж Краснап.

НЫ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Бадзяцца. *А йдзе твой сын? Нейдзі ныры па сьвету.* Хвёдараўка Краснап.

НЫ́РЫЧКА, -і, *ж.* Курачка. *Села-села, нырычка! А йдзе йта наша нырычка дзелыся, ці ні зыдраў яе каршун?* Хвёдараўка Краснап.

НЫРЯДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Прыбрацца, уубрацца. *Чаго ты нешта ў чорныя нырядзілыся, можа па кім жалобу носіш?* Слаўнае Мсцісл.

НЫСАВІ́К, -а, *м.* Насоўка. *Пан вялікій — нысавік завёў.* Палуж Краснап.

НЫСАВІЧО́К, -чка, *м.* Памянш. ад нысавік. *Я свой нысавічок нейдзе пацірaў.* Турэйск Краснап.

НЫСАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Насадзіць. *Нада нысадзіць жытум асець ды заўтра будзім мылаціць.* Слаўнае Мсцісл.

НЫСА́ТЫЙ, *прым.* Насаты. *Ладныя была б дзеўка, ды нысата дужа.* Багацькаўка Мсцісл.

НЫСВЯЦІ́ЦЦА ВЫЧА́МІ. Быць вінаватым у непрыгожых паводзінах за сябе ці другіх. *Я сянні нысвяціўсь вычамі зы тваее выбрікі піряд людзьмі.* Горкі Краснап.

НЫСКВА́РІНЫЙ, *прым.* Наскваранымы [насмажаны]. *Скыўрыда сала ныскваріныя ны сталe і госьцікі зы сталом.* Цівецкая Краснап.

НЫСКВА́РІЦЬ, *дзеясл.* Насквaрыць, напячы сала [насмажыць]. *Маці ўжу згутавала і ныскваріла: ідзіця есьці.* Залачоўка Краснап.

НЫСКРЯ́БЫЦЬ, *дзеясл.* Наскрэбці. *Ныскрябыла трошкі жыру з цёрла.* Пірагова Мсцісл.

НЫСКУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Нацкаваць. *Нада ныскуваць на іх сыбак, ніхай яны хуць пупужаюць іх. Ныскуваць ны яе сьвякрову нада — іна ёй зыдасьць.* Арцёмаўка Міласл.

НЫСЛАНЬНЁ, -я, *н.* Насланне, бяда. *Адзін дзіцёнык памёр, другей зыхварэў — што ета за нысланьнё ны маю голыву!* Пірагова Мсцісл.

НЫСЛЫНЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Нахіляцца. *Ні нысльняйсь над сталом, ні засьці другім.* Палуж Краснап.

НЫСНУ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Наставіць [настроіць]. *Мне нада ныснудзіць пасытку, ато мышэй рызьвялося шмат.* Слаўнае Мсцісл.

НЫСНЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Наснаваць. *Нысывалі красён восім пасмыў і адну чысьлінку.* Слаўнае Мсцісл.

НЫСПУСКА́ЦЬ, *дзеясл.* Наспускаць. *Ныспускала клёцак у вар ды мылаком зыбяліла — хай ядуць.* Парадзіна Мсцісл.

НЫСТА́ЎНІЦА, -ы, *ж.* Настаўніца. *Ныстаўніца лінейкый грэла ў лапу мяне.* Хвё-

дараўка Краснап. *Ды нас прыехыла новыя ныстаўніца.* Асмолавічы Мсцісл.

НЫСТА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Настаць [наступіць]. *Ужо другая квадра ныстала: месік амаль усю ноч сьвеціць.* Кокатава Мсцісл. [2. Прыстаць, прычапіцца]. *Як ныстаў ён ны мяне: дывай, ды дывай, дык ні мыгла я адкызацца.* Забычанне Касцюк.

НЫСТУПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Наступіць, надыйсці. *Ныступіў ужо мыладзік.* Кокатава Мсцісл. *Конь ныступіў мне ны нагу падковый.* Асавец Крыч.

НЫСТЫЯ́ШЧЫЙ, *прым.* Сапраўдны. *Наша жарёбычка будзіць ныстыяшчый скакунок.* Слаўнае Мсцісл.

НЫСТЯЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Наслаць, накідаць. *Нада насеч лапкі і ныстяліць там ны грязі, ато нільзя будзіць з возум піряехыць.* Бяседавічы Хоцім.

НЫСУКА́ЦЬ, *дзеясл.* Насукаць. *Нысукай мне цеўку.* Слаўнае Мсцісл. *Нада нысукаць некулькі цэвык, а тады пайдзем.* Аўчынец Краснап.

НЫСУЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Насукаць, наскручваць. *Ны сымыпряткі шнуры пырвалісь, нада нысучыць нітык ды зьдзелыць другея.* Арцёмаўка Міласл.

НЫСЫБІРА́ЦЬ, *дзеясл.* Назбіраць. *Нада нысыбіраць у маі месіцы усякыга зельля для лікарства.* Слаўнае Мсцісл. *Нічога зварыць німа, дык хуць шчаўя нада нысыбіраць.* Затоны Расняя.

НЫСЫТА́ЦЦА, *дзеясл.* Наесціся, здаволіцца. *Ці нысытаўся ты, крывапійца?* Тур'я Краснап.

НЫСЬКІПА́ЦЬ, *дзеясл.* Нашчапаць. *Нада дору ныськіпаць, заўтра будзім шчыкатурыць хату.* Арцёмаўка Міласл. *Ныськіпай ты, сынок, лучыны ны паттопку.* Слаўнае Мсцісл.

НЫСЬЛЯДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Нарабіць слядоў. *Нысьлядзілі тут, цяпер ізноў нада мост мыць.* Хвёдараўка Краснап.

НЫСЯЛЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Насельніцтва. *У нашый дзярэўні нысяленьня чылавек трыста будзе.* Пірагова Мсцісл.

НЫСЯЧЫ́ [насе́ч], *дзеясл.* Насячы, насекчы. *Нысячы ў лясу лескі, нада зыгырадзіць сад. Нысячы зельля сьвіньням у цэбры, а замішай у карыці.* Слаўнае Мсцісл.

НЫТА́ТКА, -і, *ж.* Нататка, запісанае на памяць. *Ныτатку зьдзелый, што купіць, ато забудзіш.* Краснаполле.

НЫТВАРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Натварыць [нарабляць, наштукарыць]. *Нытварылі дзялоў, што й ні рысхлібаеш!* Парадзіна Мсцісл. *Во дзе жэўжык! Скура на ім гаворыць, а вочы так і бегыюць, так і шукаюць, штоб такоя нытварыць.* Буда Рагатая Міласл.

НЫТКА́ЦЬ, *дзеясл.* Наткаць. *Ныткаў павук у нас ны выкне красён сабе.* Каничы Касцюк. *Ныткала пылытна восім трубык.* Баеўка Крыч.

НЫТМА́ШША, *прысл.* Наводмаш. *Як рызмахнецца нытмашша, дык як засьвеціць яму ў морду, дык той і абліўся кроўю.* Пірагова Мсцісл.

НЫТРАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Натрапіць. *Каб удалось мне нытрапіць харошыга кыня, дык купіў бы, толькі тут ні найдзіш. Калі б мне нытрапіць ны такога чылавека.* Арцёмаўка Міласл.

НЫТХА́НЬНЯ, -я, *н.* Задуменне, задума. *Ны нашыга шыыгра найшло нейкае нытханьня — ні п'ець, ні есьць, сядзіць і ўсё думаіць.* Добрае Мсцісл.

НЫТХНЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Натхненне. *Глянь-ка! Ны нашыга Сьцёпку нытхненьня найшло — сьціхаплётым стаў.* Добрае Мсцісл.

НЫЎДА́КУ, *прысл.* Наўрад. *Ныўдаку, ні пасьпеюць яны сяньні вярнуцца — позна выіхалі з дому.* Арцёмаўка Міласл. *Ныўдаку, каб ён табе што-нібудзь даў — ні такей ён чылавек.* Кокатава Мсцісл. *Ныўдаку ці дайдзеш ты к заходу сонца да гораду.* Лешчынка Мсцісл.

НЫЎДА́ЧУ, *прысл.* Наўдачу. *Пайшлі яны ныўдачу і німаведыма ці знайдуць, ці не.* Пірагова Мсцісл.

НЫЎЗМА́Х, *прысл.* Наводмаш. *Ік даў яму ныўзмах, дык той гылавой дзьвері адчыніў.* Шумячы.

НЫЎМЯНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Напомніць. *Поп ныўмянуў мне на доўг, быццым я й сам забыўсь.* Гаўрыленка Бялынкав.

НЫЎПІРЯДКІ́, *прысл.* Навыперадкі. *Пыгналі коній ныўпірядкі.* Хвёдараўка Краснап. *Рыгор, дывай пубяжым ныўпірядкі — хто каго пірягоня!* Прусіна Касцюк.

НЫЎРА́Д, *прысл.* Наўрад. *Ныўрад ці выжывя ён: пуплашеў саўсім.* Палуж Краснап. *Ныўрад, каб ён табе даў грошы, скупірдзя етый.* Кокатава Мсцісл.

НЫЎРА́ЦЦА, *дзеясл.* Нарвацца, натрапіць, папасці. *Свіньня асталысь у полі, а воўк ныўраўся і зьеў.* Кокатава Мсцісл.

НЫЎСКЫЧКА́, *прысл.* Наўскач. *Ды самыга двыра я ехаў ныўскычка і ні разу ні астынавіўся.* Лешчынка Мсцісл.

НЫЎСПРАМКІ́, *прысл.* Напрамкі, нацянькі. *Ня пайдзім шляхым, а ныўспрамкі, так бліжай будзець.* Палуж Краснап.

НЫЎСПРЯМКІ́, *прысл.* Напрасткі. *Ныўспрямкі будзіць трі вярьсты, а ў аб'езд — пяць.* Лютня Краснап.

НЫЎСЬПЯЦЕ́НЬ, *прысл.* 1. Наадварот. *Пыставіць дзверы ныўсьпяцень.* Хвёдараўка Краснап. [2. угору, увысь, высока].

НЫЎСЯГДЫ́, *прысл.* Назаўсёды. *Не, я ўжо ныўсягды адракуся сваіх братоў, калі яны дапусьцюць еткае апушчэнства.* Пірагова Мсцісл.

НЫЎХЫДЫКА́, *прысл.* Наўцекі. *Госьці пусьціліся ныўхыдыка аттуль.* Палуж Краснап.

НЫЎЦЯНЬКІ́, *прысл.* Нацянькі, напрасткі. *Ён быяўся, каб ні злавілі, і пабег ныўцянькі па загуменьнях.* Пірагова Мсцісл.

НЫХА́БА, -ы, *ж.* Нахабнік, назола. *Ета ні чылавек, а ныхаба нейкыя, як прыстаніць, дык ні атчэпіцца, пакуль ні дасі.* Слаўнае Мсцісл. *Такей ныхабы й сьвет ні бачыў, як ён.* Маластоўка Краснап.

НЫХА́БНЫЙ, *прым.* Нахабны. *Ныхабныя дзеўка — ёй усё ніпачым.* Забычанне Касцюк.

НЫХАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Накінуць на скорую руку. *Ныхапіў пінджак на плечы і пабег.* Хвёдараўка Краснап.

НЫХА́ПЫНЫЙ, *прым.* Нахапаны, нарабаваны. *Ета ні яго дабро, а ўсё ныхапыныя.* Палуж Краснап.

НЫХА́ПЫЦЦА, *дзеясл.* Нахапацца. *Ох і жадный — хыпаіць, што пупала, і ныхапыцца ні можыць.* Хвёдараўка Краснап.

НЫХІЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Нахіляцца. *Ветычка ат ветру ныхіляіцца, а ны марозным вакне кажыцца, што нехта зыглідаіць усё.* Мсціслаў.

НЫХРА́ПНІК, -а, *м.* Наморднік. *Прышый ты к аброці ныхрапнік, ато ён адырваўсь саўсім.* Хвёдараўка Краснап.

НЫХЫПА́ЦЦА, *дзеясл.* Нахапацца, з прагнасцю наесціся. *Ныхыпаўся яблык, во цяпер і кычаіцца із жыватом.* Пірагова Мсцісл.

НЫЦАЛУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Нацалавацца. *Ныдаела ўжу глядзець на іх: усё ніяк ні ныцалуюцца.* Арцёмаўка Мілаcл.

НЫЦКУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Нацкаваць. *Скызаў, што як прідзеш, то сыбакамі ныцкуець.* Хвёдараўка Краснап.

НЫЦМЫКТА́ЦЦА, *дзеясл.* Насмактацца. *Пырысяткі ныцмыкталіся і пылеглі кучучкаю.* Пірагова Мсцісл.

НЫЦЬ, *дзеясл.* Ныць, доўга ўголас плакаць. *Што ты ныеш! Проста душу выматваеш сваім плачам.* Пірагова Мсцісл.

НЫЦЯГНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Нацягнуцца, напружыцца, напнуцца. *Ныцягнулісь уцягнутыя ў каток вожжы.* Парадзіна Мсцісл.

НЫЦЯГНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Нацягнуць, напружыць, напнуць. *Пругі трэба ныцягнуць тужэй, ткаць луччы будзець.* Хвёдараўка Краснап.

НЫЦЯ́ГЫВІЧ, -а, *м.* Нацягавіч, шэсцік, якім падкручваюць навой у кроснах. *Ныцягывіч у кроснах пулумаўсь.* Цівецкая Краснап. *Вазьмі-ка ты ныцягівіч ды аткруці навой.* Слаўнае Мсцісл.

НЫЦЯНЬКІ́, *прысл.* Нацянькі, напрасткі. *Тут німа дарогі, нада йіціць ныцянькі.* Бабынічы Мсцісл. *Мы пыцірялі дарогу і паехылі ныцянькі к лесу.* Арцёмаўка Міласл.

НЫЦЯРПЕ́ЦЦА, *дзеясл.* Нацярпецца, намучыцца. *Ныцярпелыся я той год, як мой татка памёр, хадзіла па людзях, пакуль не паехала ў горад.* Пірагова Мсцісл.

НЫЧА́С, *прысл.* Тымчасова. *Мне нада нычас дзесяць рублёў, дайце мне, абізацілна атдам ускорысці.* Горкі Краснап.

НЫЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Пачаць. *Мой хворый нычаў ачунівыць.* Лешчынка Мсцісл.

НЫЧЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Начаваць. *Пыдарожныя акашыліся кыла рэчкі нычывась.* Нова-Ельня Краснап. *Яны абрадзіліся нычываць умесьці.* Палуж Краснап.

НЫЧЫНА́ЦЬ, *дзеясл.* Пачынаць. *Жыта ўжо сазрела, скора трэба нычынаць жаць.* Канічы Касцюк.

НЫЧЫПЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Начапляцца. *Конь пыхадзіў кыла прясла, дык цэлыя грыва і хвост дзядоў нычыплялысь.* Бяседавічы Хоцім.

НЫЧЫПЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Начапляць, панавешваць. *Нычыпляла ны сябе усякіх брязгушык, як цыганка ікая, і ходзіць пы дзярэўні.* Гарадок Міласл.

НЫЧЫСА́ЦЬ, *дзеясл.* Начасаць. *Пыдай мне грябенку, нада нычысаць мычык, ато прясьць нечыга.* Бяседавічы Хоцім. *Ці многа ты нычысала мычык?* Палуж Краснап.

НЫШКВА́РЫНЫЙ, *прым.* Насквараны. *Ны загнеце стыяла скыўрыда поўныя нышкварыныга сала.* Пірагова Мсцісл.

НЫШКРЯ́БЫЦЬ, *дзеясл.* Наскрэбці. *Дзе тое сала? От, нышкрябыла трошку ў дзежыццы.* Цівецкая Краснап.

НЫШКУМАЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Нашкуматіць [нарабіць шкуцця, наскубці]. *Ні столькі ныжалі, як нышкумацілі, гляньсь сколькі кыласкоў ляжыць.* Шумячы.

НЫШЛЯ́ЦЦА, *дзясл.* Нахадзіцца, нацягацца [нашвэндацца]. *Збіраўшы кардохлі піріпашку, за плугым за дзень можна так нышляцца, што і ногі і гылыва будзіць балець.* Арцёмаўка Міласл.

НЫШЫВА́НЫЙ, *прым.* Вышыты. *У маей сарочкі нышываныя пярэдня. У рубашкі нышываны падол.* Бяседавічы Хоцім.

НЫШЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Вышываць. *Цяперя німа чым сарочкі нышываць — німа добрай заблыці.* Брылёўка Краснап. *Я тады нышывала рушнік.* Палуж Краснап.

НЫЯВІ́ЦЦА, *дзеясл.* З'явіцца. *Ныявіліся ў лесі бандзісты.* Хвёдараўка Міласл.

НЫЯТА́, -ы, *ж.* Ныццё, тупы боль, лом у касцях. *Нейкыя ныята па ўсім касьцям пышла.* Маластоўка Краснап.

НЫ́ЯЎНА, *прысл.* Ясна, увачавідкі. *Ён мне ныяўна пыкызаў, што ў нас можыць пулучыцца, калі мы будзем так работыць.* Пірагова Мсцісл.

НЭ, *выкл.* Но. *Нэ, коська!* Палуж Краснап.

НЭ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Нокаць, панукаць, паганяць каня. *Нэкый, нэкый кыня — ня йдзець.* Палуж Краснап. *Хужы німа ны лянівым кані ехыць, нэкыіш, нэкыіш — замучыішся, а ён хуць бы што.* Арцёмаўка Міласл.

НЮ́НЬКА, -і, *ж. бат.* Асака. *Я ў балоці нырваў цілятым цэлую торбу нюнік.* Хвёдараўка Краснап

НЮХ, -а, *м.* Нюх. *Добрый нюх маеш, хлопча: мы толькі што зьбіраімся выпіваць, і ты тут.* Дубровіцы Клім. *У сыбакі добрый нюх, ён пы сьлядах чылавека спызнаець.* Дубровіцы Клім.

НЮ́ХАЦЬ, *дзеясл.* Нюхаць. *Мой дзед ні курыць, а толькі нюхыіць.* Стары Дзедзін Міласл. *Што йшчэ нюхаіш? Ні хочыш есьці, дык ні еш, ато йшчэ нюхыць пычаў, ні пахніць яму!* Аўчынец Краснап.

НЮХНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Нюхнуць. *Нюхнуў я тыбакі з дзедывый тыбакеркі, дык як прыбраў мяне чох — дзецца нейдзе.* Арцёмаўка Міласл.

НЯ, *часц.* 1. Не. *Ён жа такей скупірдзя, што на Кыляды лёду ня выпрасіш.* Вітрунь Касцюк. *Ня дзіва і пірікуліцца на етый лодзі — тыкая зыбкыя.* Самацевічы Касцюк. 2. Няўжо. *У гародзі сьвіньні! Ня? Ты праўду кажаш? Ня ты ня ведыіш, што ён дурань?* Горка Краснап.

НЯБЕ́СНЫЙ, *прым.* Нябесны, з неба. *Нысланьнё нябесныя етый гряджодный год,*

*ён у нас зніштыжаіць пасевы.* Асмолавічы Мсціел.

НЯБО́ГА, -і, *м.* і *ж.* Нябога. *Ай, якей жа ты нябога? Ну, дрэнь тваё дзела, нябога.* Хвёдараўка Краснап.

НЯБО́ЖЧЫК, -а, *м.* Нябожчык. *Нябожчыка пылажылі ў труну і пынясьлі на могілкі.* Роськаў Калініншчына. *Доўга ўспамінаць будуць нябожчыка — слаўны чылавек быў.* Крычаў.

НЯБО́ЖЧЫЦА, -ы, *ж.* Нябожчыца. *Мне прысьнілась сяньні нябожчыца-маці.* Ганнаўка Клім. *Нябожчыца Праксэда — вечны пакой — як умірала, дык кызала, што яна ведыла дзень сваее сьмерці.* Юркаўка Крыч.

НЯВЕ́ДЫМА, *прысл.* Невядома, німаведама. *Вот жа буваіць, пріключыцца нешта з чылавекым і няведыма з чаго — вось адняло ў яго рукі і ногі і ляжыць, як бірвяно.* Арцёмаўка Міласл. *Няведыма, ці скора пірістаніць яму балець.* Канічы Касцюк.

НЯВЕ́РНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Няпэўнасць. *Будзіць ета ці не — нізьвесна, і етыя нявернысьць нас і ніпакоіць.* Лютня Краснап.

НЯВЕ́СТА, -ы, *ж.* Нявеста. *Нявеста паехыла ў розгліды.* Залесавічы Крыч. *Нявесьце купілі сундук, аббітый бляхыю.* Сохана Мсціел. *Нявеста была другея парафіі.* Гібалы Касцюк. *Кыцярына ўжо нявеста.* Міцькаўшчына Мсціел. *Жаніх нявесту пытырячыў к сабе ўдвору.* Палуж Краснап.

НЯВЕ́СТКА, -і, *ж.* Нявестка, жонка сына. *Нявестка рызнісла сваё дабро у ўховы пы суседзях.* Сохана Мсціел. *Жаніў во сына, узяў сабе нявестку, дык цяпер з хаты гоніць — цесна стала.* Бяседавічы Хоцім. *Мілыта адна, як сын жывець зь нявесткай.* Гарадзец Бабр. *Ганіць сьвякрова нявестку — ня любіць яе.* Арцёмаўка Міласл.

НЯВО́, *часц.* Няўжо. *Няво ўжо ён прышоў?* Добрае Мсціел. *Ці ета ўжо твой бацька памёр? — Няво ж!* Дубеец Касцюк.

НЯВО́ЛІНЬНЯ, -я, *н.* Няволенне, прымус. *Няволіньням атняць можна, а даць нільзя.* Трубільня Краснап.

НЯВО́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Няволіць, прымушаць. *Няволіць вас ніхто ні будзіць, дзела ваша: хочаце купіць — купіце, а нет — ні нады.* Мсціслаў.

НЯВО́ЛЬНА, *прысл.* Мімавольна. *Нявольна нейк аж здрігнулысь, ік пубачыла.* Палуж Краснап.

НЯВО́ЛЬНІК, -а, *м.* Зняволены, палонны, арыштаваны. *Нявольнік сядзеў у хаці запёртый, і стражнік стыяў кыла хаты.* Арцёмаўка Міласл.

НЯВО́ПРЫМІЦЬЦЮ, *прысл.* Вопрамеццю, не помнячы сябе. *Конь нявопрыміцьцю пабег.* Хвёдараўка Краснап.

НЯВО́ТТА, *прысл.* Не вельмі. *Ён нявотта стыраіцца.* Арцёмаўка Міласл. *Дзялы мае нявотта будуць.* Палуж Краснап. *Нявотта добра ў нас.* Хвёдараўка Краснап.

НЯГЕ́ГЛЫЙ, *прым.* Нездаровы, слабы. *Ён нейкі нягеглы, нічога ня ўмея.* Чэрыкаў.

НЯГЕ́ДЛЫЙ, *прым.* Нягеглы, нездаровы, слабы. *Ён у мяне такі нейкі нягедлый, глядзіця, каб яго там хлопцы ня бвіхнулі!* Асмолавічы Мсціел.

НЯГО́, *часц.* Няўжо. *Няго ты ня пойдзіш зы мяне замуж?* Слаўнае Мсціел. *Няго ета праўда, мыя дыражэнькыя?* Лапаціна Мсціел. *Няго ты ня бачыла? — Ня бачыла, таічка ты мыя!* Бель Мсціел.

НЯГО́ДА, -ы, *ж.* 1. Нягода, дрэннае надвор'е. *Нягода пыдасьпела, а я сена ня прывез — пагніець пыд дажджом.* Самацэвічы Касцюк. 2. Бяда, нядоля. *Ат нягоды ў бенныга аж цела пычарнела.* Маластоўка Краснап.

НЯГО́ДЗЯ, *прысл.* Дрэнна, нельга, нядобра. *Нягодзя так рабіць, як ты робіш.* Палуж Краснап.

НЯГО́ДНЫЙ, *прым.* Нягодны, не варты. *Мой конь абракованый, камісія прызнала нягодным.* Мсціслаў.

НЯГО́ЖА, *прысл.* Непатрэбна. *Мне ета саўсім нягожа.* Горы Краснап.

НЯДБА́ЙЛА, -а, *м.* Нядбайла, чалавек, які ні аб чым не дбае. *Нядбайла етый нічога ня здзелыіць.* Касцюковічы.

НЯДБА́ЙЛІНА, -ы, *м.* Нядбайла. *Мой нядбайліна нічога сам ня зьдзелыіць, нічога ні скажыць пы харошыму.* Касцюковічы.

НЯДЗЕ́ЛЯ, -і, *ж.* Тыдзень, сем дзён. *Нядзеля імеіць сем дней.* Бяседавічы Хоцім. *Дзень у дзень ідзе дождж целыю нядзелю.* Раздзел Мсціел. *Нядзелю зырыбляў, а за 'дзін вечыр прапіў.* Іванаўка Хоцім.

НЯДО́ІМКА, -і, *ж.* Недаплата. *У вас яшчэ леташнія нядоімка ёсць.* Пірагова Мсціел.

НЯДУ́ЖНІК, -а, *м.* Недалужнік. *Муж у Анісьсі нядужнік нейкій: ні ў ета, ні ў тоя, толькі слова, што муж, сыма ўсе дзелыіць.* Хвёдараўка Краснап.

НЯДУ́ЖНЫЙ, *прым.* Недалужны. *Раньшы Вульляна была дзеўка быстрыя, а ік вышла ўзамуж, стала нядужныя.* Палуж Краснап.

НЯДУ́МНА, *прысл.* Нєспадзявана. *Нядумна было, штоб ён памёр, а ён — на табе!* Арцёмаўка Міласл.

НЯЗВЫЧА́ЙНА, *прысл.* Незвычайна. *Яго дычка была нязвычайна прыгожа.* Бяседавічы Хоцім.

НЯЗГРА́БНЫЙ, *прым.* Нязграбны. *Еты чылавек вельмі нязграбны.* Камароўка Крыч. *Нязграбныя тваe сані, дзе ты іх купіў, такоя ламачча?* Баеўка Крыч.

НЯЗЬДЗЕ́РЖНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Нястрыманасць. *Спыкайней нада, нязьдзержнысьць ні гадзіцца.* Мануйлы Краснап.

НЯЗМО́ГА, -і, *ж.* Нязмога, знясіленне. *Ды мыя ўжо нязмога ў еткія гады працуваць.* Добрае Мсціел.

НЯЗНА́МА, *прысл.* Невядома. *Нязнама, што й рабіць у такім разе.* Іванаўка Хоцім.

НЯЗНО́СНА, *прысл.* Нязносна [невыносна]. *Стала зусім нязносна далі чыкаць, тады я плюнуў на ўсё і пашоў.* Бяседавічы Хоцім.

НЯЗРУ́ЧНА, прысл. Нязручна. *Ішоўшы ў лес, мне нязручна зыхадзіць на луг.* Арцёмаўка Міласл.

НЯЗЬДЗЕ́ЛЬНІЦА, -ы, *ж.* Няўмека. *Яна нязьдзельніца тыкая: і сарочкі пашыць ня ўмея.* Палуж Краснап.

НЯЗЬДЗІВІ́ЦЦА, *дзеясл.* Ненадзівавацца. *Хлопіц нязьдзівіцца цацкай сваей, надта іна пыдыбаіцца іму.* Палуж Краснап.

НЯЗЬЛІ́ЧЫНА, *прысл.* Незлічона, безліч. *Што было людзей ны бызарі — нязьлічына.* Слаўнае Мсцісл.

НЯЗЬМЕ́РНА, *прысл.* Бязмерна. *Калісь-та тут былі нязьмерна вялікія лясы.* Добрае Мсцісл.

НЯЙНАЧА́Й, *прысл.* Няйначай. *Змоза паміж імі ёсьць, штоб абмішулівыць людзей — няйначай.* Паўлавічы Клім.

НЯКЕ́МНА, *прысл.* Незразумела. *Неяк някемна ты гаворыш, кажы ясьней, што табе нада!* Пірагова Мсцісл.

НЯКРУ́ЧЧЫНА, -ы, *ж.* Рэкрутчына. *Сын падрос — можна б было ўжо жыць лепій, а тут някруччына пыдыйшла, узялі ў сылдаты, і узноў зыстаўсь сам адзін.* Палуж Краснап.

НЯНА́СЬЦЕ, -я, *н.* Нягода [дрэннае надвор'е]. *Дождж ідзе, і вясёлка ваду бярэ, значыць, нянасьце будзе.* Касцюковічы. *Нянасьця падыйшла, а ў мяне йшэ і жыта нязвожына стаіць на полі — прырасьцець.* Машавая Бялынкав.

НЯПІСЬМЕ́ННЫЙ, *прым.* Непісьменны. *Я ж нялісьменны, ні прачытаю, што тут напісына, рыскажыця мне.* Іванаўка Хоцім.

НЯРУШЫ́МА, *прысл.* Непарушна. *Яго слова нярушыма, як скажыць, дык закон.* Арцёмаўка Міласл.

НЯРУ́ШЫНЫЙ, *прым.* Нечапаны, нярушаны. *Во табе нярушыный гырлач, можаш зьнімаць сьмітану.* Пірагова Мсцісл.

НЯСУ́МЫСЬЛЯ, *прысл.* Ненаўмысля [незнарок]. *За што біць дзіцёнка, калі ён зьдзелыў ета нясумысьля?* Палуж Краснап.

НЯСЬЛЕ́Д, *прысл.* Няслед, нельга. *Сапрону нясьлед було туды лезьці.* Палуж Краснап.

НЯСЬЦІ́ [не́сьць], *дзеясл.* Несці. *Ну і вёдры ж нясець, аж каромісел гнецца.* Бяседавічы Хоцім.

НЯСЬЦІ́СЯ, [не́сца], *дзеясл.* Несціся, несці яйкі (пра курыцу). *Курыца нясецца ўжо.* Палуж Краснап.

НЯЎГО́, *прысл.* Няўжо. *Няўго ты мяне ня любіш?* Пацкава Мсцісл.

НЯЎЖО́, *прысл.* Няўжо. *Няўжо ты сяньні нічога ня ела?* Слаўнае Мсцісл.

НЯЎМЫ́СЬЛІ, *прысл.* Ненаўмысля [незнарок]. *Няўмысьлі махнула палку ды пупала яму па ныгах.* Куркаўшчына Мсцісл. *Я ета зрабіў няўмысьлі.* Хвёдараўка Краснап. *Я няўмысьля рысплісную мылыка з блюдзічка.* Слаўнае Мсцісл.

НЯЎХЛЮ́Й, -я, *м.* Няўклюда. *Эх ты, няўхлюй! Ні можыш зы сабою прыбраць.* Вербеж Чэрык.

НЯЎХЛЮ́ІНА, -ы, *ж.* Няўклюда. *Няўхлюіна ты, надзела б хоць чыстую спадніцу!* Касцюковічы.

НЯЎЦЕ́ШНА, *прысл.* Няўцешна. *І плачыць і плачыць яна з таго часу няўцешна.* Пірагова Мсцісл.

НЯХА́Й, *часц.* Няхай. *Няхай будзе ўжо па-твойму.* Хоцімск. *Трэба зачыніць мікву, няхай у бані мыюцца, ато расходы на дровы лішнія.* Мсціслаў.

НЯХЛЮ́Й, -я, *м.* Няўклюда. *Етыга няхлюя нівек ня ўвідзіш.* Кокатава Мсцісл.

НЯХО́ТА, -ы, *ж.* Неахвота. *Нешта няхота мне ідці туды.* Пірагова Мсцісл.

НЯХО́ЦЬЦЮ, *прысл.* Нехаця, не хочучы. *Я ета няхоцьцю зрабіў.* Хвёдараўка Краснап.

НЯЦЬ, *дзеясл.* Няць, праняць. *Гэта ж каменны чылавек, яго ж ня могуць няць ні сьлёзы, ні просьба.* Ушакі Чэрык. *Я яму ні за што ні няў веры.* Кажамякіна Краснап.

НЯШЧА́СНЫЙ, *прым.* Нешчаслівы. *Горкыя я, няшчасныя, што мне цяпер дзелыць?* Краснаполле.

НЯШЧА́СЬЦЕ, -я, *н.* Няшчасце. *Няшчасьце яе ета зваліла, ато іна баба вёрткая.* Негін Касцюк. *Еткыя няшчасьце перажыць, дык адыб'ецца ны здароўі.* Пірагова Мсцісл.

# О

О, *выкл.* О, ого. *О-о, ты ў нас вялікі пан!* Мсціслаў.

О́БЛІК, -а, *м.* Аблічча. *У твайго тыварыша облік красівый.* Гусарка Клім.

О́БЫК, *прысл.* Побач. *Обык зь ім ідзець яго жонка, а 'дзаду — цешча.* Мсціслаў.

ОГО́, *выкл.* Ого! *Ого, якей ты храбрый у запічку!* Ганнаўка Клім. *Ого, якую кырываху ён за жонку ўзяў!* Горкі Краснап.

ОГО-ГО́, *выкл.* Ого-го (выказвае здзіўленне). *Ого-го, што ты там бачыў!* Гусарка Клім.

О́ГНІК, -а, *м.* Вогнік, болькі на губах і барадзе. *Огнік пы барадзе пашоў — прыстудзілась нейдзе.* Гаўрыленка Бялынкав.

О́ДГАЛАСК, -а, *м.* Адгалосак, рэха. *Як крыкніш у лесі, дык усюдых рыздаецца одгаласк.* Людагошч Мсцісл.

О-Ё-Е́Й, *выкл.* Оёй (выказвае здзіўленне, боль, смутак). *О-ё-ёй! Якей вісокій дом! О-ё-ёй! Што мне рабіць?* Палуж Краснап.

ОЕ́Й, *выкл.* Ай (выказвае боль, страх). *Оёй, ратуйце! Ён мяне заб'ець!* Шэвялёўшчына Мсцісл.

ОЙ, *выкл.* 1. Ой. *Ой, якей ён пастылы! Відзіць яго ні магу. Ой, ікая ж ты румза!* Хвёдараўка Краснап. 2. Ого. *Матруна наша, ой, ікая пявуньня.* Маластоўка Краснап.

О́ЙЧЫНЬКА, -а, *м.* Татухна, ойчанька. *А што жы вам, гусычкі, да таго?* ‖ *Есьць у мяне ойчынька длі таго.* З нар. песні. Зарэчча Мсцісл.

О́КЛІП, *прысл.* Верхі, вярхом. *Сеў окліп на жэрдку і ездзіць, як ны кані.* Багацькаўка Мсцісл.

О́ПАДЗЬ, -і, *ж.* [Апад], апалыя грушы ці яблыкі. *Ета ж грушы нязрелыя, ета — опадзь, іх чырвяк пыдтачыў, дык яны і ўпалі, а вы іх ядзіцё.* Самацэвічы Касцюк.

ОПІС, -у, *м.* Вопіс, бранне на рахунак, апісванне. *Прыехыла міліцыя, будзіць опіс маімасьці рабіць.* Азерцы Клім.

ОСХЛЫЙ, *прым.* Сухарлявы, худы. *Ён толькі осхлый, а так — здаровый чылавек.* Асмолавічы Мсцісл.

ОСЬЦІ, -ей, *мн. л.* Восці. *Вазьмі осьці, пойдзем рыбы пыглядзім, мо што й заб'ём.* Каробчына Мсцісл.

ОТ, *выкл.* Вось! *От табе й штука!* Палуж Краснап. *От табе й на!* Сохана Мсцісл.

ОТЛІГ, -у, *м.* Адліга. *Пысьля марозу ныстаў отліг.* Жэрапіно Мсцісл.

ОТО, *выкл.* Вот. *Ото ж ты яму даў, як заяц кабыле.* Дубровіцы Клім.

ОТПУСТ, -у, *м.* Адпушчэнне. *Раньшы да отпусту хадзілі ў Тупічына, ля Мсьціслаўля, там быў нымастыр.* Юркаўка Крыч.

ОХ, *выкл.* Ох. *Ох, брат, ты й сьмікаліст!* Хвёдараўка Краснап.

ОХЦІ, *выкл.* Вохці. *Охці мне! Што цяпер рабіць буду?* Асмолавічы Мсцісл.

ОШУСТ, -а, *м.* Ашуканец, жулік, машэннік. *Еткій ошуст каго ні спыдманіць!* Стары Дзедзін Міласл.

# П

ПА, *прыназ.* 1. Па. *Па вуліцы ехала падвода.* Касцюковічы. *Бацька выцяў сына па мордзе.* Малюшын Касцюк. *Нехта дужа жалобна выў ны кладбішчы па мёртвыму.* Слаўнае Мсцісл. *Па Міхася прыехалі міліцыянеры.* Зоры Чэрык. *Сяньня нада ехаць па дровы длі школы.* Сапрынавічы Мсцісл. *Ні па нырaву мне ета дзела.* Цівецкая Краснап. *Выбраў дзеўку па свойму норыву.* Азерцы Клім. 2. Паводле. *Па тваім слывам выходзіць, што Юрка сам у етым вінуватый.* Шумячы.

ПААЛЕІЦЬ, *дзеясл.* Паалеіць, заліць алеем. *Трэба бульбу больш паалеіць.* Старае Сяло Мсцісл.

ПААСОБКУ, *прысл.* Паасобку. *Ты бутылкі паасобку пыкладзі, ато паб'юцца.* Старае Сяло Мсцісл.

ПАБВЕШАЦЦА, *дзеясл.* [Паабвешвацца], начапляць на сябе чаго-небудзь. *Дзеўка пабчапілысь, пабвешылысь цацкымі, думыя, што прыгажэй будзя.* Брылёўка Краснап.

ПАБЕГЧЫ [пабежч], *дзеясл.* Пабегчы. *Сыбака пабегла па полю.* Хоцімск. *Дзеці пабеглі ны каўзель коўзацца.* Сутокі Мсцісл. *Трус пабег ны грады — капусту там пагрызець.* Randomly Варадзькава Крыч.

ПАБІДЗІЦЦА, *дзеясл.* Здарыцца бядзе. *Пабідзіцца мне сяньні, чуіць маё серца бяду.* Хвёдараўка Краснап.

ПАБІТЫЙ, *прым.* Пабіты. *Шыба пабіта, дык вецір дзьмець. Пабіты гырлач.* Хоцімск.

ПАБІЦЦА, *дзеясл.* 1. Пабіцца. *Біч пабіўся, і мылаціць нечым.* Машавая Бялынкав. 2. Стаптацца. *Чыбаты пабілісь, пачыняць нада.* Хоцімск.

ПАБІЦЬ, *дзеясл.* 1. Пабіць. *Пабілі ўвесь цэбар.* Крычаў. *Вольга пабіла бітлагу.* Хоцімск. *Кот хацеў паесьць смітану і гырлач пабіў.* Бяседавічы Хоцім. 2. Пакрыць вышэйшаю картаю ці козырам. *Пайду вышніка — ён ні паб'ець, у яго ніжнік.* Хвёдараўка Краснап.

ПАБКАПЫЦЦА, *дзеясл.* Абкапацца. *Ела кісель, ды чыста пабкапылыся.* Тур'я Краснап.

ПАБКЫЛАЦІЦЬ, *дзеясл.* Паабкалаціць, атрэсці да звання. *Сяньні ўночы вецір усі яблыкі пабкылаціў.* Пірагова Мсцісл.

ПАБЛІЗУ, *прысл.* Блізка, недалёка. *Ці няма тут паблізу дзе вады?* Гібалы Касцюк.

ПАБОЖНА, *прысл.* Памяркоўна, не вельмі. *Калі ён зь цябе ўзяў за ета рубель, дык ета йшчэ пабожна, я думаў, болій вазьмець.* Сутокі Мсцісл.

ПАБОЖНЫЙ, *прым.* Памяркоўны, невялікі ў сэнсе труднасці. *Налогі ў етым годзі яшчэ пабожны — цярпець можна.* Слаўнае Мсцісл.

ПАБОЛІЦЬ, *дзеясл.* Пабольшаць, зрабіцца большым. *Ён такей вісокій і хочыць яшчэ паболіць, хочыць яшчэ пыдрасьці.* Арцёмаўка Міласл.

ПАБОРІЦЦА, *дзеясл.* Пабарукацца. *Пабоґрыўсь з Анісым, дык Аніс пабор̄іў мяне.* Маластоўка Краснап.

ПАБОРІЦЬ, *дзеясл.* Пабароць, перамагчы ў барацьбе. *Я цябе паборію, ня думай, шты такей сільный.* Трубільня Краснап. *Хто каго паборія з вас?* Палуж Краснап.

ПАБОРКА, -і, *ж.* Спаборніцтва ў барацьбе. *Хлопцы вышлі ны паборку — хто каго паборія.* Палуж Краснап.

ПАБОРЫЦЬ, *дзеясл.* Пабароць, здужаць. *Быў у нашай вёсцы асілак, дык ён усіх пабор̄ыў.* Старае Сяло Мсцісл. *Ён яго пабор̄ыя, ён сільный хлопіц.* Палуж Краснап.

ПАБОРЬЧЫЦЦА, *дзеясл.* Пабарукацца. *Дывай пабор̄ьчыімсь — хто каго пабор̄ьчыя.* Шумячы.

ПАБОЧЫНА, -ы, *ж.* Бакавіна, бок. *Кыбанчык быў сытый — ны пабочынах многа мяса.* Хвёдараўка Краснап.

ПАБРАЦЦА, *дзеясл.* Пабрацца, павянчацца. *Ужо сорак год будзя ўвосінь, як мы з сваёй бабай пабраліся.* Асмолавічы Мсцісл.

ПАБРУДНЕЛЫЙ, *прым.* Забруджаны, забруднелы. *Мост пабруднелый: нада падмыць, ато ад людзей срымыта.* Палуж Краснап.

ПАБУДАВАЦЬ, *дзеясл.* Пабудаваць, збудаваць. *Пабудаваў хату бацькам, а сам паехаў.* Пірагова Мсцісл.

ПАБУДЖАЦЬ, *дзеясл.* Будзіць. *Матка дзяцей пабуджая, а яны дрыхнуць сабе.* Палуж Краснап.

ПАБУДОВАНЫЙ, *прым.* Пабудаваны. *Хата новая, нідаўна пабудована.* Машавая Бялынкав.

ПАБЧАПІЦЦА, *дзеясл.* Начапляць на сябе. *Пабчапіўся нейкымі цацкымі дый ходзя, як індык.* Палуж Краснап.

ПАБЫВАЦЬ, *дзеясл.* Пабываць. *Сяньня ў нашый клеці пабываў злодзій.* Лешчынка Мсцісл.

ПАБЫЦЬ, *дзеясл.* Пабыць. *Я хацеў пабыць там даўжэй, ды ні цікава, я скора пакінуў сход.* Слаўнае Мсцісл.

ПАБЭХЫЦЦА, *дзеясл.* Буйна вырасці, разрасціся. *Тыбака ны гародзі пабэхылыся — лісьця, як лыпата.* Буда-Кашалёўская.

ПАВАДКІ, -аў, *мн. л.* Паводка, разводдзе. *На ряце ўжо павадкі.* Негін Касцюк. *Павадкі прарвалі грэблю.* Новыя Капачы Мсцісл.

ПАВАЖАЦЦА, *дзеясл.* Сароміцца [і адносіцца з павагай]. *Бястыднік ты: хуць бы людзей паважаўся!* Гібалы Касцюк.

ПАВАЛІЦЦА, *дзеясл.* Упасці. *Ты не бяжы шыбка, ато паваліськя.* Юркаўка Крыч.

ПАВАЛОЧКА, -і, *ж.* Кажух, пакрыты сукном, шуба. *У мяне ёсьць лёгкі кажух, аддам краўцу сукном абцягнуць, добрая будзе павалочка.* Барысавічы Клім.

ПАВАЛОЧЧА, -а, *н.* Валока, мера зямлі каля 18 дзесяцін. *Чаму ня жыць, паваложча зямлі маючы, ніхай пажыве так, як я — на чвэрці.* Тур'я Чэрык.

ПАВЕДАМІЦЬ, *дзеясл.* Паведаміць. *Яго трэба паведаміць, што мы сяньня едзім, ато ён думыя, што заўтрі.* Хоцімск. *Чаму ты не паведаміў, што прыдзеш?* Пірагова Мсцісл.

ПАВЕЗЬЦЬ, *дзеясл.* Павезці. *Янку павязьлі хаваць ны магільнік.* Распа. *Гаспадар павёз жыта на пруд.* Юшкавічы Раснян.

ПАВЕКА, -а, *н.* Павека. *Во дзеўка дык дзеўка: вочы вялікія, а павекі чорныя, густыя.* Маластоўка Краснап.

ПАВЕРЫЦЬ, *дзеясл.* Паверыць. *Абманіў ён мяне, а я і паверыла.* Пірагова Мсцісл. *Хто етыму круцялю паверыць? Ён жа ўсім вядомый.* Пухнава Раснян.

ПАВЕРЬХ, -а, *м.* Паверх. *Відзіш, дом на трі паверьхі — ета і будзіць райсавет.* Краснаполле.

ПАВЕРЬХ, *прыназ.* Зверху. *Паверьх пуўшубка надзеў сьвітку, штоб цяплей было.* Шумячы.

ПАВЕСА, -ы, *ж.* Пахмуры, суровы чалавек. *Павеса ты: калі йдзеш, дык і гылавы ні падымаіш. Чаго ты ходзіш такой павесай?* Хвёдараўка Краснап. *Мой брат павеса.* Шумячы.

ПАВЕСІЦЬ, *дзеясл.* Павесіць. *Павесіў дзядзька арэлі, хадзі пойдзім гуташыцца.* Пірагова Мсцісл. *Ны абразы павесілі новы набожнік.* Машавая Бялынкав.

ПАВЕСМА, -а, *ж.* Скрутак з дваццаці жменяк сцёртага лёну ці канапель. *Нымялі тры павесмы пысканьней.* Брылёўка Краснап.

ПАВЕСТКА, -і, *ж.* Павестка, паведамленне. *Прішла мне павестка іці на суд.* Слаўнае Мсцісл.

ПАВЕТРА, -а, *н.* Паветра. *Ад завулку цяніць дренныя паветра.* Лешчынка Мсцісл.

ПАВЕТРЫЯ, -я, *н.* 1. Непрыемнасць, бяда. *Вот дык паветрыя, ішоў па лузе і прабіў нагу.* Белы Камень Бялынкав. 2. Дрэнная пагода. *Ну й паветрыя сяньня, хоць с хаты ні вылазь.* Хоцімск.

ПАВЕЦЬ, -і, *ж.* Повець, паветка. *Падкаці калёсы пад павець, ато дождж намоча.* Кісялёва Буда Краснап. *Пад павецьцю стаіць конь.* Халдзееўка Хоцім. *Пастаў яго там пыд павецьцюй.* Вярбоўка Раснян. *Калёсы пыставілі пыд павець.* Машавая Бялынкав.

ПАВІВАЦЬ, *дзеясл.* Павяваць, ціха веяць. *Павіваець ціха ветрык.* Хоцімск.

ПАВІДЗІЦЦА, *дзеясл.* Прыдацца [здацца]. *Хворыму нешта павідзілась страшныя, дык ён ускачыў з пасьцелі і закрічаў.* Арцёмаўка Міласл.

ПАВІЛІЦА, -ы, *ж. бат.* Павітуха. *У лузі павіліца красным цьвіцець.* Хвёдараўка Краснап.

ПАВІННЫСЬЦЬ, -і, *ж.* [Павіннасць], абавязак. *Ён ета дзелаіць 'сероўна, што павінныськь атбываіць.* Палуж Краснап.

ПАВІСНУЦЬ, *дзеясл.* Павіснуць. *Кінуў шапкуй ны варону, а шапка й павісла ны рябіні.* Вітрунь Касцюк.

ПАВІТАЦЦА, *дзеясл.* Павітацца. *Ідзі, дзетка, павітайся з дзядзькам за руку.* Сохана Мсцісл.

ПАВОДКІ, -дык, *мн. л.* [Паводка], разводдзе. *У сёлетнім годзе былі вялікія паводкі, усі масты пазнасіла.* Вярбоўка Раснян.

ПАВОДЫР, -а, *м.* Павадыр. *Ты, дзедушка, нічога ні бачыш, трэба мець паводыра.* Лютня Краснап.

ПАВОЗКА, -і, *ж.* [Павозка], каляска, брычка. *Наехыў на пень, і павозка пылымалысь.* Людагошч Мсцісл.

ПАВОЗЬНІК, -а, *м.* Вознік. *Павозьнік наш ні к чорту — шкадуіць падыгнаць сваю клячу.* Ушакі Чэрык.

ПАВОЛІ, *прысл.* Паволі, ціха, асцярожна, не спяшаючы. *Ідзець ён так сабе паволі, як карова наеўшысь.* Бяседавічы Хоцім.

ПАВОСІНЬ, *прысл.* Увосень. *Доўг павосінь аддам.* Палуж Краснап.

ПАВОШТА, *прысл.* Чаго. *Павошта ты прышоў да нас?* Сохана Мсцісл.

ПАВУК, -а, *м.* Павук. *Ныткаў павук у нас ны вакне красён сабе.* Канічы Касцюк. *Нацмыктаўсь, як павук, крыві маёй.* Хвёдараўка Краснап.

ПАВУЦІНА, -ы, *ж.* Павуціна. *Абраз Міколы дужа ў павуціні.* Новыя Капачы Мсцісл.

ПАВУЧЫНА, -ы, *ж.* Павуціна. *Па кутах у хаці шмат павучыны.* Сохана Мсцісл. *Павучына пад бэлькай так і зыстылась, як жа ета ты абмітала?* Азерцы Клім.

ПАВУЧЫНЬНЯ, -я, *н. зборн.* Павуцінне. *Нада абдмухыць павучыньня із столі, ато дужа многа яе зывялося.* Пірагова Мсцісл.

ПАВЫВАЛІЦЦА, *дзеясл.* [Павывальвацца]. *Хлопіц аччыніў пушачку, і ўся дробізь павывалілась аттуль, цяпер во зьбірай.* Пірагова Мсцісл.

ПАВЫВУЧЫЦЬ, *дзеясл.* Павывучваць, навучыць. *Павывучылі іх ны сваю гылаву, січас ім і слова ні скажы.* Горкі Краснап.

ПАВЫДКІ, -дак, *мн. л.* Паводка, разводдзе. *У павыдкі грэблю прырвала выда, дык цяпер речка пірясохла.* Бяседавічы Хоцім.

ПАВЫІСЬЦЬ, *дзеясл.* Павыядаць, выгрызці, патачыць. *Чэрві павыілі капусту. Мышы павыілі мякуш.* Палуж Краснап.

ПАВЫКІНУЦЬ, *дзеясл.* Павыкідаць. *Што так быгата іс спіскый павыкінулі?* Горкі Краснап.

ПАВЫКЫЛАНТЫРЫЦЬ, *дзеясл.* [Павыманьваць], выманіць. *Пайка павыкылантырый усе грошы, якія былі ў жонкі.*

ПАВЫЛІЧЫНЫЙ, *прым.* [Вылічаны], вырахаваны. *Прібытык ужу напірёд павылічыный, а калі ён будзіць — нізьвесна.* Шумячы.

ПАВЫЛКА, -і, *ж.* Паводка, верхаводка, вада на лёдзе. *Павылка паплыла па рэцы.* Хвёдараўка Краснап.

ПАВЫМУШТРЫЦЬ, *дзеясл.* [Павымуштроўваць], вымуштраваць. *Калі етый дзядзька возьмецца, дык ён іх павымуштрыць.* Бяседавічы Хоцім.

ПАВЫПІТРІЛЫЙ, *прым.* [Выпетралы], высахлы. *З пасевый нашых нічога ні будзіць біз дажджу: глядзі, якея яны павыпітрілыя.* Лютня Краснап.

ПАВЫРАСЬЦЬ, *дзеясл.* [Павырастаць], вырасці. *Ну і павырас асот вялікій у пашаніцы, рукі паколеш у жніво.* Пірагова Мсцісл.

ПАВЫРЫВАЦЬ, *дзеясл.* Павырываць. *Дыстань з скрынкі абцужкі і павырывай з сьцяны гвозьдзя.* Сохана Мсцісл.

ПАВЫРЫСТАЦЬ, *дзеясл.* [Павырастаць], вырасці. *Ны гародзе павырысталі бальшыя гарбузы.* Сохана Мсцісл.

ПАВЫСКРІСЬЦЫСЬ, *дзеясл.* Вылезці з непрыемнага палажэння, з біды. *Тут ні да прібыткаў, а, як той Улас кажыць, нада падумаць, як павыскрісьцыс біз страт.* Малаcтоўка Краснап.

ПАВЫСКРІСЬЦЬ, *дзеясл.* [Павышкрабаць], вышкрабці, вычысціць. *Нада павыскрісьць усё сьмяцьцё з двыра.* Слаўнае Мсцісл.

ПАВЫСЫПАЦЦА, *дзеясл.* [Павысыпáцца], вы́сыпацца. *Сані рыскаціліс па зываροцьці і ўсі павысыпаліс.* Старае Сяло Мсцісл. *Нада 'бкітываць вокны, ато сьцёклы павысыпюцца.* Пірагова Мсцісл.

ПАВЫСЫХТЫЙ, *прым.* Высахлы. *Павысыхтыя сена складзём у капіцы, а ўзаўтрі яго зыбярём у пуню.* Цівецкая Краснап.

ПАВЫЦІГАЦЬ, *дзеясл.* [Павыцягваць], павырываць. *Дзеці павыцігалі ўсю моркву з град.* Пірагова Мсцісл. *Із яго ўсё начыньня павыцягала.* Расна.

ПАВЫЦЬ, *дзеясл.* Паплакаць, пагаласіць. *Памёр мой бацька, нада схадзіць павыць па ём.* Бяседавічы Хоцім.

ПАВЫЧЫРЬКНУЦЬ, *дзеясл.* [Павыкрэсліваць], выкасаваць, выкрасліць. *Хто ні ўнёс зыдатку, усіх павычырькнуць нада, штоб ні мішаліс.* Краснаполле.

ПАВЯРНУЦЦА, *дзеясл.* Павярнуцца. *У нас тыкая цесната, што павярнуцца німа дзе.* Ушакі Чэрык. *Лепеза ты, дзе павернісься, дык што-небудзь рызаб'еш.* Хвёдараўка Краснап.

ПАВЯРНУЦЬ, *дзеясл.* Павярнуць. *Во зварыла груцы — аж ложку ні паверніш.* Парадзіна Мсцісл.

ПАВЯСЬЦІ [павесьць], *дзеясл.* Павесці. *Праз дзярэўню міліцыя павяла арыштантаў.* Пірагова Мсцісл. *Павядзём коні пасьвіць на ячэньне.* Новыя Капачы Мсцісл.

ПАГАВАРЫЦЬ, *дзеясл.* Пагаварыць, пагутарыць. *Пагаворым пра нашых бацькоў, як яны там мадзеюць.* Пірагова Мсцісл.

ПАГАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Пачакаць. *Сена нільга грэсьць, нада пагадзіць яшчэ з пыўчыса — ніхай падсохніць.* Арцёмаўка Міласл. *Пагадзі трошку, чаго ты сьпяшаесься.* Іванаўка Хоцім.

ПАГАЛОСКА, -і, *ж.* Погаласка, чутка. *Закруцілась дзеўка, дык во цяперь пы ўсяму сялу і пышла пагалоска.* Гібалы Касцюк. *Пашлі ўжо пагалоскі па дзяреўні, што Міхась пакінуў Мар'ю.* Вярбоўка Расняп.

ПАГАНІЦЬ, *дзеясл.* Паганіць, апаганьваць. *Погань етыя толькі дзярэўню пыганіць сваей асобыю.* Рылаўшчына Мсцісл.

ПАГАНЯЦЬ, *дзеясл.* Паганяць. *Паганяй кыня, ніхай хучэй бяжыць.* Касцюковічы.

ПАГБАЦЬ, *дзеясл.* Пагнуць, пагібаць. *Узяў ды пагбаў каробку, абы ня было.* Расна.

ПАГЛІДАЦЬ, *дзеясл.* Паглядаць. *Кошка ласа паглідаіць на віріб'я.* Бабынічы Мсцісл.

ПАГЛУМ, -а, *м.* Псуццё [глум]. *Ай, яй! Сколькі дыбра ў паглум ідзець, ета ж тысічы пряхым пашло.* Краснаполле.

ПАГЛУМІШЧА, -а, *н.* Смех, глумленне. *Абстріг бырады ны паглумішча людзям.* Слаўнае Мсцісл.

ПАГЛУМЛІНЫЙ, *прым.* Сапсаваны. *З асьцірогый выбірайце бульбу, ні глуміце: ач, сколькі паглумліный.* Трубільня Краснап.

ПАГЛЯДЗЕЦЦА, *дзеясл.* Паглядзецца. *Пайду я пагляжусь у люстра.* Хоцімск.

ПАГЛЯДЗЕЦЬ, *дзеясл.* Паглядзець. *Ідзі паглядзі, што табе там нырабілі гармідыру ў хаце.* Пірагова Мсцісл.

ПАГНІЦЬ, *дзеясл.* Пагніць, згніць. *Падакеньніцы нашы пагнілі, нада новыя дзелаць.* Новыя Капачы Мсцісл.

ПАГНОЙНЫЙ, *прым.* Пагнойны, угноены. *На льняніішчы можна будзіць засеяць авёс, там места пагнойнае.* Пірагова Мсцісл.

ПАГОДА, -ы, *ж.* Пагода. *Сяньні харошая адгалоска: заўтрі будзіць пагода.* Дубеец Касцюк. *Нівісь як яны даедуць у такую пагоду.* Арцёмаўка Міласл. *Пагоды добрае німа, а сена косюць людзі, ні глідзяць.* Куркаўшчына Мсцісл.

ПАГОДЗІЦЬ, *дзеясл.* Вычакаць час [пачакаць]. *З етым дзелым нада пагодзіць: ні час яго пачынаць.* Залачэўка Краснап.

ПАГОДНА, *прысл.* [Пагодна], добрая пагода. *Нада касіць, пыка пагодна, сена высыхніць.* Шумячы.

ПАГОНЬ, -і, *ж.* Пагоня. *Міліцыя снырядзіла пагонь зы бандзістымі.* Князёўка Краснап.

ПАГРО́ЗА, -ы, *ж.* Пагроза, небяспека. *Усё ўрэмя ў нас пагроза вайны, а мы дужа ня хочым вайны.* Пірагова Мсцісл.

ПАГРЭ́БУВАЦЬ, пагрэ́бывыць, *дзеясл.* Пагрэбаваць. *Пагрэбуваць ты мной ні можыш, бо табе ж німа з чаго жыць, а ў мяне ўсяго хыпаіць.* Ушакі Чэрык. *Не пагрэбыйце, госьці дырагія, пейце, езьце ны здаровіка!* Пірагова Мсцісл.

ПАГРЭ́ЦЦА, *дзеясл.* Пагрэцца. *Пагрэйсь на печы, ты ж увесь акалелый.* Хвёдараўка Краснап.

ПАГРЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Пагрэць. *Пагрэй рукі ля пячы, ні бяры халоднымі рукамі дзіцёнка.* Новы Дзедзін Міласл.

ПАГРЮ́МКЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Бурчэць. *Дзед сядзіць на прізьбі ды пагрюмкыіць на мыладых: усё яму ні так, усё ні нырявіцца.* Тур'я Краснап.

ПАД, *прыназ.* Пад. *Пад сталом сядзіць кот.* Рэкта Касцюк. *Трэба мішаць пад жыта.* Хвёдараўка Краснап.

ПАДАБА́БЫК, -бка, *м.* Падбярозавік (грыб). *Я знайшоў шэсьць падабабкаў.* Вародзькава Крыч.

ПАДАБЕ́Д, -а, *м.* Падабед, другое снеданне на полі. *Кідайце, хлопцы, касіць: унь пыдабед ужу прінясьлі — патсілкуімсь нямнога.* Залачоўка Краснап.

ПАДАВА́ЛЬНІЦА, -ы, *ж.* Жэрдка з сукам, якою падаюць снапы на асець. *Наша падавальніца ўжо зламілась і снапы падаваць нечым.* Рэкта Касцюк. *Рукамі падаваць дрэнна — луччэй падавальніцай.* Вародзькава Крыч.

ПАДАВА́ЦЬ, *дзеясл.* Падаваць. *Дзед палез на цапкі, січас будзем падаваць яму снапы.* Новыя Капачы Мсцісл.

ПАДАЖДА́ЦЬ, *дзеясл.* Пачакаць. *Падажджы, Іван, пайдзем разам!* Красоўка Калініншчына.

ПАДАЙЦІ́, *дзеясл.* Падыйсці пад мерку. *Етый капыл ні падойдзя.* Хвёдараўка Краснап.

ПАДАПЛЁКА, -і, *ж.* Падбіўка ў сарочку. *На падаплёку можна якую хусьцінку падкласьці, хуць з старое кашулі.* Паўлавічы Клім. *Пад сарочку трэба падкласць падаплёку.* Людагошч Мсцісл.

ПАДАРВА́ЦЬ, *дзеясл.* Падарваць. *Так цяжка было падымаць, чуць шлуньня сваё не падарвалі.* Гібалы Касцюк.

ПАДАРО́ЖНЫЙ, *прым.* Падарожны. *Ехаў нейкі падарожны пайз наш двор — дык сыбакі чуць з воза ні сьцяглі.* Ушакі Чэрык.

ПАДАРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Падараваць. *Мне дзядзька падарыў сваё часы сярэбраныя.* Пірагова Мсцісл.

ПАДАСЕ́ЦЬ, -і, *ж.* Падасець, яма ў асеці, у якой знаходзіцца печка. *Падкінь дроў у падасець, нада добра ныпаліць, штоб жыта высыхла, ато сыроя сайсім.* Крычаў. *Дзед палез у падасець.* Машавая Бялынкаў.

ПАДАСІ́НАВІК, -а, *м. бат.* Падасінавік (грыб). *Падасінавікі і абабкі растуць у бярэзьніку і маладым асіньніку.* Пірагова Мсцісл.

ПАДАСІ́НЬНІК, -а, *м. бат.* Падасінавік (грыб). *Падасіньнік падобный да баравіка, толькі ў яго красныя галава.* Пірагова Мсцісл.

ПАДА́ТКОВЫЙ, *прым.* Падатковы. *Етыя падатковыя лісты ўжо выкананы.* Каніччы Касцюк.

ПАДА́ЦЬ, *дзеясл.* Падаць. *Падай мне клешчы.* Новае Сяло Мсцісл. *Зы пытраву айсу я падаў на Івана на ўзыскі ў суд.* Добрае Мсцісл.

ПАДБАРО́ДЫВІШ, -а, *м.* Вяроўка пры аброці, якая падвязваецца «пад бараду» каню. *Ёзька, зьві падбародывіш, ато аброць усё ськіваецца.* Бязводзічы Мсцісл.

ПАДБЕ́ГЧЫ [падбежч], *дзеясл.* Падбегчы. *Падбег я к ёй, ажно яна ляжыць абмерлая і ня дышыць.* Пірагова Мсцісл.

ПАДБЕ́Л, -у, *м.* 1. *бат.* Падбел. *Адзін падбел ны маім лузі расьцець.* Хвёдараўка Краснап. *Падбел па-расейску завецца кашка.* Пірагова Мсцісл. 2. *бат.* Тысячаліснік, крываўнік. *Найдзі мне скарэй падбелу, я парэзаў паліц.* Казённая Буда Краснап.

ПАДБО́РКА, -і, *ж.* [Падборка], падчыстка. *У лісасеку падборку трэба зьдзелыць, ато залогу ні вернуць.* Хвёдараўка Краснап.

ПАДБО́ЧНЫЙ, *прым.* Пабочны. *Ета ў яго падбочныя зыняцьця — бындарьства, а так ён лясьнік.* Б. Хутары Краснап.

ПАДБРУ́ШНІК, -а, *м.* Падбрушнік, шырокі пояс, які падвязваецца каню пад жывот. *Надзень каню падбрушнік.* Хвёдараўка Краснап.

ПАДБУ́ЦЬ, *дзеясл.* Падабуць. *Падбуй цёплыя 'нучы, дык мароз ні праймець.* Палуж Краснап.

ПАДБЯГА́ЦЬ, *дзеясл.* Падбягаць. *Нейкі сыбака два разы падбягаў да нашыга воза.* Пірагова Мсцісл.

ПАДБЯРО́ЗАВІК, -а, *м.* Падбярозавік. *Мікола знайшоў падбярозавікаў і тры быравікі.* Касцюковічы.

ПАДВА́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Падважыць. *Пасабі, братка, падважыць бервяно.* Тур'я Чэрык.

ПАДВАКО́НЬНІК, -а, *м.* Падаконнік. *У нас у вокнах зроблены дубовыя падваконьнікі.* Машавая Бялынкав.

ПАДВА́ЛАК, -лка, *м.* 1. Падаконнік. *Падвалак увесь згніў.* Крычаў. *У маіх вокнах дубовыя падвалкі.* Рылаўшчына Мсцісл. 2. Падваліна, падруба. *У нашыга суседа падвалкі ў будынку трупехлы.* Гарманава Мсцісл.

ПАДВАРО́ТНЯ, -і, *ж.* Падваротня, дошка, што закладваецца пад вароты. *Закладзі падваротню, ато парысяты павылізуць.* Тур'я Краснап.

ПАДВАРО́ЦІНА, -ы, *ж.* Падваротня. *Падвароціна пыд вароты ні зыкладзена.* Пухнава Расням.

ПАДВЕ́СЬЦЬ, *дзеясл.* 1. Падвесці [правесці]. *Нада яго троху падвесьць, ато адзін будзіць быяцца іціць.* Дзеражна Касцюк. 2. Падмануць. *Падвёў ты мяне: сказаў, што ў цябе ёсьць гатовая вось, а цяпер кажаш — німа.* Зоры Чэрык.

ПАДВЕ́СЬЦЬ ПЫД КАСЬЦЁЛ. Ашукаць, зрабіць дурнем у вачах людзей. *Ён думаў мяне пыд касьцёл падвесьць, ды ні ны таго ныпаў, я сам яго пыдвяду.* Дубровіцы Клім.

ПАДВО́ДА, -ы, *ж.* Падвода. *Падвода праехала ўсю вуліцу і зьвярнула на вулку.* Маластоўка Краснап.

ПАДВО́ДНІК, -а, *м.* Возні́к, падводчык. *Мой падводнік кепскі, ня скора дывязець мяне ды хаты.* Каніччы Касцюк.

ПАДВО́ДЧЫК, -а, *м.* Візнік [абознік], чалавек, што едзе «у падводы» зарабіць. *Нас ехала падводчыкаў чалавек дваццаць, ды ўсё хлопцы сільныя, маладыя.* Пірагова Мсцісл.

ПАДВО́ЙНЫЙ, *прым.* Падвойны, дубальтовы. *Зіма ідзець, нада ўжу падвойныя вокны ўстыўляць.* Маластоўка Краснап.

ПАДВО́Р'Я, -я, *н.* 1. Гаспадарка. *Падвор'я маё ніважныя: і коні, і каровы нешта хварэюць.* Самацэвічы Касцюк. 2. Двор, сядзіба. *Як мыя дачушка хадзіла, || Падвор'я маё красіла.* З нар. песні, М. Г. 25.

ПАДВУХРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Падвучыць каго, падбіць. *Паджыгайла етый толькі падвухрый, а як прышло да дзела, дык і схуваўсь.* Забычанне Касцюк.

ПАДВЯЗА́ЦЦА, *дзеясл.* Падперазацца. *Падвяжысь матузом.* Гарманава Мсцісл.

ПАДВЯЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Падвязаць. *Падвяжы штаны, ато згубіш.* Янаўка Мсцісл.

ПАДВЯСЬЦІ́ [падве́сьць], *дзеясл.* Падвесці, падмануць. *Падвёў ты, кум, мяне, хоць ты цяпер суседу ў вочы не глядзі!* Пірагова Мсцісл. *Ты хацеў мяне падвясьці, ды ні ўдалось.* Новы Дзедзін Міласл.

ПАДГАНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Падагнаць. *Падгані кыня троху, ато ні даедзім да ночы.* Гібалы Касцюк. *Нечым кыня падганіць, дык галіну ў лесі атламіў.* Дубеец Касцюк.

ПАДГЕ́РІЦ, -а, *м.* Падгерац. *Падгеріц злымаўсь, шворін выскачыў, і воз абярнуўсь.* Бяседавічы Хоцім. *Відна падгеріц слабы, што зад у калёсах адломан.* Крычаў. *Без падгэрца шворан выскачыць.* Дуброўна. *Падгэрыц атырваўсь, ні даедзім.* Хвёдараўка Краснап. *Твой падгэрэц дужа слаб.* Тур'я Чэрык.

ПАДГЭ́СЬЦЕР, -а, *м.* Падгерац. *Зь етыя бярозкі будзя харошый падгэсьцер у калёсы.* Хвёдараўка Краснап.

ПАДДА́НЫЙ, *прым.* Падданы, паднявольны. *Што я табе падданы які ці што — папіхаіць мной усюды, куды хочыць!* Ушакі Чэрык.

ПАДДЗЁ́ЎКА, -і, *ж.* Верхняя зімовая адзежа, пашытая ў стан, бекеша. *Паддзёўка пашыта добра.* Кажамякіна Краснап.

ПАДДРЫ́ПАНЫЙ, *прым.* Абарваны [абтрапаны] ў падоле (пра адзежу). *Надта паддрыпана твая сьвітка, хоць бы ты яе падрубіў ці што.* Куркуўшчына Мсцісл. *Спадніца ўся паддрыпана, а іна ні падшыіць.* Парфенава Мсцісл.

ПАДДУ́РЬ, -а, *м.* Падман, ашуканства. *Ідзі паддурівай Грішку, а я на твой паддурь ні пайду.* Палуж Краснап.

ПАДДУРІ́ЦЬ, *дзеясл.* Абмануць, ашукаць. *Ляксей лоўка мяне паддуріў — скызаў, штоб кыня двору прівёў, быццым бацька гуваріў.* Лютня Краснап.

ПАДДУ́РЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Падманваць. *Паддурывый, паддурывый, пакуль ні паддурый.* Краснаполле.

ПАДДУ́ЦЬ, *дзеясл.* Абмануць, ашукаць. *Цыган паддуў мужука ны кані.* Лютня Краснап.

ПАД'Ё́М, -у, *м.* Пад'ём. *Дарога ны гару ды крутэй пад'ём — чуць узьехылі.* Арцёмаўка Міласл.

ПАД'Е́СЬЦЬ, *дзеясл.* Пад'есці. *Сяньня наша красуня добря пад'ела.* Бяседавічы Хоцім.

ПАДЖАНІ́ШНІК, -а, *м.* Паджанішнік, чашнік [шафер, дружка, маршалак]. *Міхась у Янкі за паджанішніка.* Затоны Раснян. *Хто ў цябе будзе за паджанішніка?* Людагошч Мсцісл.

ПАДЖО́ГА, -і, *ж.* Паджыга [падбухторванне]. *Сам ён нічога ня здзелыіць, нада штоб яго хто-небудзь падвухріў — яму паджога нада.* Арцёмаўка Міласл.

ПАДЖЫГА́ЙЛА, -а, *м.* Паджыгайла [падбухторшчык]. *Паджыгайла етый толькі падвухріў, а як прышло да дзела, дык і схуваўся.* Забычанне Касцюк.

ПАДЖЫ́ГЫЦЬ, *дзеясл.* Паджгаць, хутка пабегчы. *Ік скызалі, што лес гаріць, дык лясьнік паджыгыў—канём ні дагоніш.* Тур'я Краснап.

ПАДЖЫ́ЛКА, -і, *ж.* Паджылка, сухажылле. *Паджылкі зытрясьліся — так ударыў.* Хвёдараўка Краснап.

ПАДЗАДО́РІВЫЦЬ, *дзеясл.* Падзуджваць. *Ні падзадорівый ты яго, ато будзя дренна.* Маластоўка Краснап.

ПАДЗЁ́Ж, -а, *м.* Падзеж, мор на статак. *Сёлета нейкі падзеж на быдлу найшоў.* Пірагова Мсцісл.

ПАДЗЁ́Л, -у, *м.* Падзел. *Навошта вам гэты падзел, жылі б разам усе, дык лепей было б, ато пабачыце — рызваліцца ваша гаспыдарка пысьля падзелу.* Ушакі Чэрык.

ПАДЗЁ́НІК, -а, *м.* Падзённік. *Падзёнік — вольный чылавек, дзень атработыў, а заўтрі можыць пріціць, можыць і ні пріціць.* Арцёмаўка Міласл. *Узялі мы сабе трох падзёнікаў ды й змылацілі ўсё жыта.* Пірагова Мсцісл.

ПАДЗІ́Ў, -ву, *м.* Урокі. *Ат падзіву шыптала баба, і нічога ні пымагло.* Хвёдараўка Краснап.

ПАДЗО́ЛЬЛЯ, -я, *н.* Падзол, падзолістая глеба. *Ні расьцець жыта ны падзольлі.* Хвёдараўка Краснап.

ПАДЗУ́ДЖЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Падзуджваць. *Ні падзуджывый ты яго, ён і так ні ведаіць, што дзелыць з сабою.* Мануйлы Краснап.

ПАДЗЬДЗЁ́ЛЫК, -лка, *м.* Пракладка паміж падушкай і шворнам у калёсах. *Нада йшчэ зьдзелыць падзьдзелык пыд падушку і шворынь.* Хвёдараўка Краснап.

ПАДЗЬДЗЁ́ЛЫЦЬ, *дзеясл.* Падстроіць [зрабіць, навараж ыць]. *Ён ета ўсё падзьдзелый.* Хвёдараўка Краснап.

ПАДЗЬДЗЁ́ЦЬ, *дзеясл.* Падкалупнуць, падпусціць шпільку, сказаць што непрыемнае для другога. *Ты мяне падзьдзей, дык і я ж цябе падзьдзену.* Палуж Краснап.

ПАДЗЯ́КА, -і, *ж.* Падзяка. *Табе, бабка, быльшая падзяка, што ты зьлячыла мяне.* Добрае Мсцісл.

ПАДЗЯЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Падзяліць. *Вешна ў іх у сямьі грызота: то старэя міз сабою ні ладзюць, то мыладэя, і радзіміц іх ведыць, што яны ні падзелюць там.* Арцёмаўка Міласл.

ПАДКО́МКЫЦЬ, *дзеясл.* Падкамячыць. *Падкомкыў хлыпца пыд сябе і душыць.* Хвёдараўка Краснап.

ПАДКО́РЧЫЦЬ, *дзеясл.* Падагнуць [падкурчыць]. *Падкорчыў ногі і сеў на мост.* Палуж Краснап.

ПАДКО́ЧЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Падкочвацца. *Пычалі мы патроху падкочывыцца бліжэй к вогнішчу, бо ноч была халодная, ядраная.* Пірагова Мсцісл.

ПАДКРУ́П'Я, -я, *н.* Дробныя грэцкія крупы. *У етый бачурыццы крупы, а ў тэй — падкруп'я.* Крычаў.

ПАДКРУ́ЧЧА, -а, *н.* Топкая балоцістая мясціна, зарослая кустамі. *Конь залез у падкруччa і падковы падрываў у балоці.* Студзянец Касцюк.

ПАДКУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Падкаваць. *У майго кыня капыт рыскалоўсь, падкуваць нада.* Камароўка Крыч.

ПА́ДЛА, -ы, *ж.* 1. Падла, здыхляціна. *Фэ, тухліць падлаю.* Старае Сяло Мсцісл. *Лянь як сыбака падлу жрэць. А кошка, нябось, падлы ня есьць.* Арцёмаўка Міласл. 2. Худы, стары конь. *Харошыга кыня купіць грошы ні хапіла, дык купіў падлу.* Там жа.

ПАДЛА́СЫЙ, *прым.* Падласы. *Во ўрадзіўся ў нас ягнёнык, як тхарок падласый.* Куркаўшчына Мсцісл.

ПАДЛЕ́ГАНЬНЕ, -я, *н.* Падлізванне. *І навошта такоя падлеганьне пірад гэтым гадам — пірад ім жа ён гатоў ны задніх лапах скыкаць.* Ушакі Чэрык.

ПАДЛЁПУШ, -а, *м.* Чалавек, што ўмешваецца недарэчы, дзе яго не просяць. *Етый падлёпуш яшчэ пыдгадзіў: улез з сваім языком куды ня трэба.* Хвёдараўка Краснап.

ПАДЛЕ́ТАК, -тка, *м.* Падлетак. *У яго ўжо хлопец падлетак.* Гібалы Касцюк.

ПАДЛЕ́ЧКА, -і, *ж.* Подлая. *Дычка мыя — падлечка: матку сваю ні ўва што ставіць.* Палуж Краснап.

ПАДЛІ́ЗА, -ы, *ж.* Падліза, падхалім. *Ня люблю я яго: такій нейкій падліза, праныра, ажно гідка глядзець!* Пірагова Мсцісл.

ПАДЛІ́ЗЬНІК, -а, *м.* Падліза. *Падлізьнік ты панській!* Хвёдараўка Краснап.

ПАДЛІ́К, -ку, *м.* Падлік. *Правільный падлік налогу паможыць нам выкрыць усе памылкі.* Юшкі Мсцісл.

ПАДЛІ́ЧКА, -і, *ж.* Падлік. *У кыпіряціві падлічка, дык нічога ні прідаюць.* Б. Хутары Краснап.

ПАДЛІ́ЧЫВЫНЬНЯ, -я, *н.* Падлічванне. *Зынялісь падлічывыньнім прібыткыў, а іх чорт бачыў — адны страты.* Палуж Краснап.

ПАДЛІ́ЧЫВАЦЬ, *дзеясл.* Падлічваць. *Мы будзім мылаціць, а хлопіц — снапы падлічывaць.* Юшкі Мсцісл.

ПАДЛО́ГА -і, *ж.* 1. Падлога. *Падлога памыта чыста, а вы з гразёю лезіця, ног ні выціршы.* Кажамякіна Краснап. 2. Падаконнік. *Я ў сваёй хаце ў вокны пылажыў дубовыя падлогі.* Казённая Буда Краснап. 3. Падсцілка. *Лёг спаць ны масту і падлогі аніякый ні ўзяў.* Дубровіцы Клім.

ПАДМА́ЗАЦЬ, *дзеясл.* Падмазаць. *Во шмарявідла, вазьмі і падмаж калёсы.* Лешчынка Мсцісл. *Ні падмажыш — ні паедзіш,— кажуць людзі.* Лютня Краснап.

ПАДМАЙСТЁРЫК, -рка, *м.* Вучань на майстра. *Спычатку ён быў вучыніком у століра, а цяпер так наўчыўся, што зрабіўся яго падмайстёркым.* Сохана Мсцісл.

ПАДМА́СЬЛІЦЦА, *дзеясл.* Падлісціцца. *Ці ты ж ні ведаіш гэстай цахны: яна ж усюды пралезіць, к усім падмасьліцца.* Ушакі Чэрык.

ПАДМЕ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Падмесці. *Нада падмесьць мост, бо дужа сорна ў хаце.* Хлышчы Мсцісл.

ПАДМЁТКА, -і, *ж.* Падмётка. *Ні купляй падмёткі з жыўцом, ато січас прамокнуць.* Слаўнае Мсцісл.

ПАДМО́ГА, -і, *ж.* Дапамога, падмога. *Сын вырас — цяпер падмога будзець бацькам.* Пірагова Мсцісл. *Я бізь яго падмогі ня выкруціўся б.* Турэйск Краснап. *Вырысьціць сынок, будзіць бацьку падмога.* Слаўнае Мсцісл.

ПАДМО́ЖНЫЙ, *прым.* Дапаможны. *Адзін конь ні выцігніць, нада падможныга пудпряч.* Турэйск Краснап.

ПАДМО́СЬНІК, -а, *м.* Бэлька пад падлогаю. *У хаце падмосьнікі нада класьць новыя.* Машавая Бялынкав. *Падмосьнікі згнілі, і мост абламіўся.* Крычаў.

ПАДМО́СЬЦЕ, -я, *н.* Прастора паміж падлогаю і грунтам. *Грошы зыкаціліся ў падмосьця, цяпер ні дыстаніш.* Палуж Краснап.

ПАДМУ́РАК, -рка, *м.* Падмурак, мураваны фундамент пад будынкам. *Якаў пыставіў сваю хату ны падмурку.* Касцюковічы. *Наша вучылішча харошыя, відзіш і падмурык з кірпічу складзен.* Арцёмаўка Міласл.

ПАДМЯСЬЦІ́ [падмесьць], *дзеясл.* Падмесці. *Падмяці мост, ато ў хаце брудна.* Асавец Крыч.

ПАДМЯТА́ЦЬ, *дзеясл.* Падмятаць. *Дрэнна падмятаць падлогу гальнікам.* Гарманава Мсцісл.

ПАДНІ́ЗЬЗЯ, -я, *н.* Даліна, месца з блізкай грунтавою вадою. *На паднізьзі жыта выпрывая.* Ляхаўшчына Глуск. *Штогоду ў мяне ны паднізьзі жыта выпрувая.* Навашоўкі Раснян.

ПАДНО́ЖНІК, -а, *м.* Палатно, што кладзецца пад ногі маладым у часе вянчання. *На што табе етый кусок пылытна, свацьця? Ета будзіць падножнік мыладым вінчацца.* Слаўнае Мсцісл.

ПАДНО́СКА, -і, *ж.* Падмётка. *Добрыга раменю ты купіў, ладныя будуць падноскі пад боты.* Пабкі Раснян.

ПАДНЯВЕ́СЬНІЦА, -ы, *ж.* Паднявесніца, дружка, таварышка нявесты на вяселлі. *Паднявесьніца прыгажэй за мыладую.* Рылаўшчына Мсцісл. *Цікавыя твыя паднявесьніца.* Людагошч Мсцісл.

ПАДНЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Падняць. *Не, нізмыга мне етый мех падняць, ато ноды парвесься!* Пірагова Мсцісл.

ПАДО́БНЫЙ, *прым.* Падобны. *Мыкарыў сын падобны ны бацьку.* Лешчынка Мсцісл.

ПАДО́БСТВА, -а, *ж.* Падабенства. *Зшыў сабе нейкую сьвітку на падобства манаха і ходзіць у ёй.* Пірагова Мсцісл.

ПАДО́ЙМА, -ы, *ж.* 1. Падыманне. *У мяне быляць рукі ад падоймы цяжкіх грузаў.* Слаўнае Мсцісл. 2. Пад'ём. *Дарога ны падойму пышла.* Маластоўка Краснап.

ПАДО́Л, -а, *м.* 1. Падол, ніз адзежы. *Во шлёпа, падол захлёпыла, ні мыгла пыдняць яго вышы. У маёй сарочкі нышываный падол.* Бяседавічы Хоцім. 2. Месца на рацэ, дзе мыюць бялізну. *Пайду ны падол пылыскаць панёву.* Маластоўка Краснап. *Дзяўчына пышла ны падол пылыскаць плацьця.* Пацкава Мсцісл.

ПАДО́НКІ, -каў, *мн. л.* Падонкі, астаткі чаго-небудзь на дне. *Сыма зьела зьверьху сьмітанку, а мне кінула адны падонкі.* Слаўнае Мсцісл.

ПАДО́НЬНЯ, -я, *н.* Падонкі. *Зьверьху ў кублі сала харошыя зьелі, а цяперь падоньня ня хочыця.* Слаўнае Мсцісл. *Сена коні ўсё паелі, асталось адно падоньня.* Мацутаўка Расиян.

ПАДО́СКА, -і, *ж.* Падосак, сталёвая палоска, што падкладваецца пад вось у калёсах. *Ета падоска скора атарвецца.* Ташна Клім. *Падоскі ў восі ёсьць.* Крычаў. *Жалеза ны падоскі нада йшчэ купіць, дык і двору можна рухаць.* Мсціслаў.

ПАДО́СТКА, -і, *ж.* Падосак. *На ету вось нада падлажыць новую падостку, ато ета саўсім піряцёрлысь.* Бяседавічы Хоцім.

ПАДО́ХНУЦЬ, *дзеясл.* Падохнуць. *Дробізь уся падохла за ету зіму.* Хвёдараўка Краснап.

ПАДПАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Падпаліць. *Дзеці падпалілі кучу хворысту.* Гібалы Касцюк.

ПАДПАЯ́САЦЦА, *дзеясл.* Падперазацца. *Мой брат падпаясаўся крайкай.* Маляцічы Крыч.

ПАДПАЯ́СКА, -і, *ж.* Пояс, падпяразка. *Падпаяскі німа ніякае, так і хаджу ні падпаясаны.* Бялынкавічы.

ПАДПЕРАЗА́ЦЦА, *дзеясл.* Падперазацца. *Падперазаўся б ты хоць, ато беспыясый ходзіш.* Прыпечына Касцюк.

ПАДПЕРАЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Падперазаць. *Падперажы хвартук.* Расна.

ПАДПЕ́ЧЧА, -а, *н.* Падпечак. *Певень вылез з падпечча і запеў.* Пірагова Мсцісл.

ПАДПІРЫЗА́ЦЦА, *дзеясл.* Падперазацца. *Матузом падпірызаўся.* Горкі. *Мой тыварыш падпірызаўся крайкай.* Людагошч Мсцісл.

ПАДПІРЫЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Падперазаць. *Ты ж падпіражы хвартух, так ня йдзі.* Лапаціна Мсцісл.

ПАДПЛІТА́ЦЬ, *дзеясл.* Падплятаць. *Бацька надзеў лапаць на капыл і стаў яго падплітаць.* Гібалы Касцюк.

ПАДПО́ЛЬЛЯ, -я, *н.* Пограб пад падлогаю [пад нарамі] ў хаце. *Марылька, дастань з падпольля картошкі.* Роськаў Касцюк. *Схадзі ў падпольля і ныбяры кошык бульбы.* Янаўка Мсцісл.

ПАДПО́ЎЗЬЦЬ, *дзеясл.* Падпаўзці. *Вошчупкам падпоўз туды.* Брылёўка Краснап.

ПАДПРЕ́ЖЫНЫЙ, *прым.* Падпечаны, падпражаны. *Падпрежыныя кілбыса стыяла ны скыўрадзе ны стале і аж хрумцела на зубах, як яе елі.* Арцёмаўка Міласл.

ПАДПРЕ́ЖЫНЫЙ, *прым.* [Падпрэжаны], прыпрэжаны. *Падпрежыный конь зусім ні цяніць, а толькі йдзець.* Ташна Клім.

ПАДПРУ́ГА, -і, *ж.* Пас, якім падшпіляюць сядзёлку. *Пыдцяні тужэй падпругу, ато сядзёлка з'їжджаіць набык.* Бяседавічы Хоцім. *Надзеў сядзёлку на кыня і зышпіліў падпругу, дык іна вяліка яму — вісіць пыд жыватом.* Арцёмаўка Міласл.

ПАДРА́ЦЦА, *дзеясл.* Падрацца. *Мой хвартух сусім падраўся.* Расна. *Рубашка падралась.* Хоцімск.

ПАДРА́ЦЬ, *дзеясл.* Падраць. *Зычапіўся за гвозд і кажух падраў.* Мсціслаў. *На што ты падраў мой сшытак?* Бобрыкі Мсцісл.

ПАДРЕ́З, -а, *ж.* Падрэз, жалезная вузкая палоска пад полазам саней. *Твае сані ны падрезах, дык лёгка ідуць.* Бяседавічы Хоцім.

ПАДРО́БНА, *прысл.* Падрабязна. *Яму падробна рыскызалі ўсё ды каліва.* Арцёмаўка Міласл.

ПАДРО́СТЫК, -стка, *м.* Падлетак. *Карова ды цёлка-падростык — другей год, вось і ўвесь мой статык.* Арцёмаўка Міласл.

ПАДРУ́Б, -ы, *м.* Падруба, падваліна, ніжняе бервяно ў будынку. *Ён ужо падруб зрубіў.* Хвёдараўка Краснап.

ПАДРУ́ГА, -і, *ж.* Сяброўка, таварышка. *Надовічы я бачыла сваю падругу.* Рэкта Калінішчына.

ПАДРУ́ЗА, -ы, *ж.* Шляя. *Трэба зрабіць новую падрузу ў хамут.* Расна.

ПАДРУ́ЧНІК, падру́шнік, -а, *м.* Памочнік. *Сын — бацькыў падручнік.* Лютня Краснап. *Ён мне ўжо падрушнік, усё памыгая.* Маластоўка Краснап.

ПАДРЭ́З, -а, *м.* Падрэз, вузкая палоска жалеза пад полазам саней. *Падрэзы ў маіх санях зьезьдзіліся, нада новыя дываць.* Ташна Клім.

ПАДСА́НКІ, -нак, *мн. л.* Малыя санкі (ужываюцца як падсобныя пры вывазцы бярвенняў). *Дарога разьбітыя, дык падсанкі бегаюць з боку набык. Дзеці зыбралі падсанкі ды пабеглі на лёд.* Крычаў.

ПАДСЕ́ІЦЬ, *дзеясл.* Падсеяць. *Падсей муку ны падсітык, хлеб луччы будзіць.* Хвёдараўка Краснап.

ПАДСІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Падсяваць. *Ікая бузяныя грачыха, нада падсіваць будзя.* Сутокі Мсцісл.

ПАДСІ́ТАК, -тка, *м.* Падсітак, частае рэшата. *Прасей муку ны падсітак.* Людагошч Мсцісл. *Я сеіла муку ны падсітык, а хлеб нейкі чорны.* Канава Хоцім.

ПАДСКО́К, -у, *м.* Па́дскок. *Іна ж ня йдзе, а ўсё з падскокым: два шагі ступіць і скок, два шагі ступіць і зноў скок.* Арцёмаўка Міласл.

ПАДСКО́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Падскочыць. *Як джыганула пчыла, аж падскочыў.* Парадзіна Мсцісл.

ПАДСЛУ́ХЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Падслухоўваць. *Жэўжыкі етыя, бегыюць пад вокнымі ды падслухывыюць.* Асмолавічы Мсцісл. *Як табе ні стыдна падслухывыць пад вакном?* Тульдава Расиян.

ПАДСО́БА, -ы, *ж.* Падмога. *Німа мне ніякай падсобы — усё адзін ды адзін.* Палуж Краснап.

ПАДСО́БІЦЬ, *дзеясл.* Дапамагчы. *Падсоб ты мне зілянцы выбіраць, толькі кынапель ня трі, ціха.* Бяседавічы Хоцім. *Падсоб мне ўзьняць мех.* Палуж Краснап.

ПАДСО́БНЫЙ, *прым.* Дапаможны. *Мы ўзялі двух падсобных коняй, спрагліся і паехалі ў Смаленск.* Пірагова Мсцісл.

ПАДСО́Б'Я, -я, *н.* Дапамога. *Дычка мне даець падсоб'я, сама трохі зыряботыю, то аттуль, то атсюль — во так і жыву пумалу.* Шумячы.

ПАДСО́НЕШНІК, -а, *м. бат.* Сон-трава. *У лесі падсонешнік ужо зацьвіў.* Хвёдараўка Краснап.

ПАДСО́ХНУЦЬ, *дзеясл.* Падсохнуць. *Як падсохніць вясною зімля, дык пачнём пахыту.* Сохана Мсцісл.

ПАДСТА́ВІЦЬ, *дзеясл.* Падставіць, прыставіць. *Падстаў к сталу зэдлік ды сядзь.* Бель Мсцісл. *Дзяўчына падставіла бацьку пад ногі зэдлік.* Бродкі Крыч.

ПАДСТРО́ІЦЬ, *дзеясл.* Падстроіць, зрабіць што-небудзь хітра. *Так падстроілі, што й ні хацеў бы, а прышлось жаніцца.* Палуж Краснап.

ПАДСТРО́МКІ, -мак, *мн. л.* Пастромкі, вяроўкі, якімі прывязваецца да хамута плуг, барана і інш. *Пыдцяні левую падстромку, ато пыдсанкі пашлі бокум.* Бяседавічы Хоцім.

ПАДСТРЭ́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Падстрэліць. *Міхась падстрэліў жураўля.* Бродкі Крыч.

ПАДСТУ́ПНЫЙ, *прым.* Даступны, просты ў адносінах да людзей. *Наш прідсідаціль — падступный: ды яго усякій можыць дайці і пугуварыць.* Краснаполле.

ПАДСУ́НУЦЬ, *дзеясл.* Падсунуць. *Садзіцеся ў нас, госьці будзеця: Мар'я, падсунь зэдлік бліжэй!* Пірагова Мсцісл.

ПАДСЫПАЦЬ, *дзеясл.* Падсыпаць. *Падсып яму ў чай зельля.* Буліна Касцюк. *Да пуда ні хыпая, падсып яшчэ з пайгарца.* Бродкі Крыч.

ПАДСЬВЕ́ШНІК, -а, *м.* Ліхтар. *Зыпаліла сьвечку, пыставіла ў падсьвешнік і панісла яго на стол.* Арцёмаўка Міласл.

ПАДСЬЦЕ́ЛЬНІК, -а, *м.* Лубок або тонкія дошчачкі, якія кладуцца на дню калёс. *З етыга лубка будзе добры падсьцельнік у калёсы.* Ташна Клім.

ПАДТАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Запаліць у печы дровы. *Пыдтапіла ў печы, а сама пабегла па ваду, а дровы й патухлі.* Гаўрыленка Бялынкав. 2. Затапіць вадою. *Вадою павець пыдтапіла, што й ні ўлезіш.* Мануйлы Краснап.

ПАДТА́ШКІ, -шак, *мн. л.* Паветка каля клеці. *Змылацілі, пынасыпалі ў мяшкі і вынісьлі ў падташкі.* Касцюковічы.

ПАДТО́ПА, -ы, *ж.* Сухія трэскі, лучына для падпальвання ў печы. *Сырэя дровы, біс падтопы ніяк ні гыряць.* Палуж Краснап.

ПАДТРЫМА́ЦЬ, *дзеясл.* Падтрымаць. *Падтрымай воз, ато перакуліцца ў етых каўдобінах.* Азерцы Клім.

ПАДТРЫМО́ЎВАЦЬ, *дзеясл.* Падтрымоўваць, падтрымліваць. *Чапёлкі ніты падтрымоўваюць.* Парадзіна Мсцісл.

ПАДУ́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Пабароць. *Ён мяне падужыя, бо сільнейшы ад мяне.* Палуж Краснап.

ПАДУ́ЗА, -ы, *ж.* Шляя. *Зыезджаў з гары, дык падуза пырвалыся і хамут на вушы каню наіжджаіць,— думаў, што перакулюсь.* Хвёдараўка Краснап. *Калі б не падуза, застаўся б конь без гылавы.* Ташна Клім. *Трэба зрабіць новаю падузу ў хамут.* Расна. *Ні так надзеў на кыня падузу.* Гібалы Касцюк. *Папраў падузу ны кані, ато зьехыла набык.* Бяседавічы Хоцім.

ПАДУЗГО́РЫК, -а, *м.* Адхон гары, ніз гары. *Дом стыяў на падузгорку.* Хвёдараўка Краснап.

ПАДУЛА́ДНЫЙ, *прым.* Падлеглы, падуладны. *Што ты мной распырыжаіişся, я табе ні падуладный!* Асмолавічы Мсцісл.

ПА́ДУЛЯ, -і, *ж.* Дулька, невялікая прадаўгаватая груша. *Я натрос целый мех падуль зь етыя грушы.* Тур'я Чэрык. *Падулі — смашныя грушы.* Бродкі Крыч.

ПАДУ́МАЦЬ, *дзеясл.* Падумаць. *Кыла пнёў было многа гыварушык; я перша падумыла, што ета апенкі, а потым толькі распызнала.* Арцёмаўка Міласл. *Падумаеш, якая знымянітысьць прыехыла.* Папоўшчына Мсцісл.

ПАДУРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* [Пашумець], пабалавацца. *Сыбраліся дзеўкі, хлопцы, трохі падурылі, папелі ды разышліся.* Пірагова Мсцісл.

ПАДУ́ТЫЙ, *прым.* Пакрыты зверху якім-небудзь металам, напрыклад золатам ці серабром. *Еты ні зылатэй, ён толькі падуты зольтым.* Хвёдараўка Краснап.

ПАДУ́ШКА, -і, *ж.* 1. Падушка. *У мяне ёсьць толькі адна навылка ны падушку.* Слаўнае Мсцісл. *На падушку пад голый пыкладзі.* Іванаўка Хоцім. 2. Брус у калёсах, які служыць асноваю для драбін і абапіраецца на вось. *Заднія падушка ў калёсых слаўныя, а пярэднія троху слабыватыя.* Бязводзічы Мсцісл. *На етыя калёсы нільзя класьць бальшэй воз, ато ў іх треснуўшыя падушка.* Бяседавічы Хоцім.

ПАДХО́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Падыходзіць. *К яму нада ціха падходзіць, бо ён дужа астрожный.* Юшкі Мсцісл.

ПАДЦКЫВАЦЬ, *дзеясл.* Падбіць, падгаварыць. *Падцкывау хлыпца пабіць дзяўчыну, а той — рад служыць.* Гаўрыленка Бялынкав.

ПАДЦЫ́КВАЦЬ, *дзеясл.* Падцыкваць, невыразна гаварыць. *Што ты языком падцыкваеш, быццам у цябе канхвета ў роце?* Пірагова Мсцісл.

ПАДЧАРЁВЫК, -ўка, *м.* Падчаровак [падчарэўе]. *У кабына на падчарёўку сала было тонкае.* Касцюковічы.

ПА́ДЧЫРКА, -і, *ж.* Падчарыца, дзіця першай жонкі ў адносінах да другой — мачахі. *Мыя падчырка — як родныя дычка, такая добрыя.* Паўлавічы Клім. *Кепска жыцьцё падчыркі: мачыха — ня родныя маці, ні пыжалеіць.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ПАДШАРО́ХНУЦЬ, *дзеясл.* Падмерзнуць, падсохнуць. *Мароз невялікій — троху гразь падшарохнула.* Карма Пайкі Краснап. *Сёньня падшарохла на дварэ.* Там жа.

ПАДШКРО́БЫШ, -а, *м.* 1. Маленькая булачка хлеба. *Сьпікла тры булкі хлеба й падшкробыш.* Хвёдараўка Краснап. 2. Апошні сын ці дачка. *А ета мой сынок-падшкробыш.* Маластоўка Краснап.

ПАДШУБНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Падкінуць угару. *Падшубні палку ўгару!* Палуж Краснап.

ПАДШУ́ЛЫК, -лка, *м.* 1. [Падшулак], нятоўсты слупок. *Ачасаў пару падшулкаў за дзень — усяго мае й работы.* Юркаўка Крыч. 2. Дубок таўшчынёю цалей 6. *Во расьцецьь добрый падшулык.* Хвёдараўка Краснап.

ПАДЫГНА́ЦЬ, *дзеясл.* Падагнаць. *Чаго ты шкадуіш падыгнаць сваю клячу? Падгыняй, няхай бяжыць.* Ушакі Чэрык.

ПАДЫ́ЙСЬЦІ [падыйці], *дзеясл.* 1. Падыйсці [наблізіцца]. *Падыйшоў к нам Антось на цыпычках, што ніхто й ні пачуў.* Крычаў. *Падыйшлі, а ён няжывэй і астыгаць ужо пычаў.* Юшкі Мсцісл. 2. [Падыйсці], падняцца цесту пад дзеяннем дражджэй. *Дрождзжы мабыць ня сьвежыя, што пірагі ні падышлі.* Серчыцы Краснап.

ПА́ДЫЛІКІ, -аў, *мн. л.* [Апад], паданіцы (яблыкі ці грушы). *Падылікыў бызата ныьбіраў у садзе.* Хвёдараўка Краснап.

ПА́ДЫЛІШЧА, -а, *н.* Месца, дзе закопваюць здохлую жывёлу. *Мікола павёз сваю карову ны падылішча: пасьледнія здохла.* Людагошч Мсцісл.

ПАДЫМА́ЦЦА, *дзеясл.* Паднімацца. *Во цяльпух нейкій — падымаецца, як старый, ніяк ні падымецца.* Парадзіна Мсцісл.

ПАДЫМА́ЦЬ, *дзеясл.* Падымаць, паднімаць. *А ніхай яго, як цяжка падымаць, а здаецца і нівялікій мех.* Гібалы Касцюк. *Ніты твае харошыя, добра падымаюць ніткі.* Новыя Капачы Мсцісл.

ПАДЫРВА́ЦЬ, *дзеясл.* Падарваць. *Ні падымай так цяжка, ато жываты падырваць можна.* Гібалы Касцюк.

ПАДЫ́ХА, -і, *ж.* Подых. *Усё застыла ў сьпякоце, і падыхі ветру німа.* Хвёдараўка Краснап.

ПА́ДЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Падаць. *Гылалёд такей, што ўсі падыюць ідучы — нільзя ўдзіржацца на ныгах.* Палуж Краснап. 2. Упадаць, заляцацца. *Ён за ёю падыя.* Палуж Краснап.

ПАД'ЯХЕ́РЫЦЦА, *дзеясл.* Падыйсці з хітраю паслугаю, каб атрымаць сабе выгаду. *Во, іна хоць к каму пад'яхерыцца.* Куркаўшчына Мсцісл.

ПАЁЗЬДЗІЦЬ, *дзеясл.* Паездзіць. *Я во, ні ўставіў утулку ў каткі, дык год паезьдзіў, і каткоў німа.* Бяседавічы Хоцім. *Паезьдзіў я за свой век пы гырыдах — ідзе толькі мяне ні було.* Слаўнае Мсцісл.

ПАЕ́СЬЦІ, *дзеясл.* Паесці, з'есці ўсё. *Паеў тхор усіх пісклят.* Пірагова Мсцісл. *Сёньня кот паеў усіх верыбінятык у гнязьдзе пад страхою.* Касцюковічы. *Ад етыга кыта нідзе нічога ні схуваеш: пыстаў гырлачы хоць куды, усё 'дно знойдзіць і паесьць усю сьмітану.* Бяседавічы Хоцім.

ПАЕ́ТАМУ, *прысл.* Таму. *Дзядзька кызаў, што ў маліне есьць чырвякі, і паетаму ён ня хочыць есьць маліны.* Юшкі Мсцісл.

ПАЕ́ХАЦЬ, *дзеясл.* Паехаць. *Нявеста паехала ў розгліды.* Крычаў. *Бацька й матка паехалі ўгосьці.* Вітрунь Касцюк. *Хацеў зайтрі паехыць у горыд, але мабыць ні ўдасца.* Броды Крыч.

ПАЖАНІ́ЦЦА, *дзеясл.* Пабрацца. *Пажаніліся: ён карузьлік, а йна голда.* Хвёдараўка Краснап.

ПАЖА́Р, -у, *м.* Пажар. *Пажар ахапіў усю дзярэўню.* Слаўнае Мсцісл.

ПАЖЛО́КТЫЦЬ, *дзеясл.* Паесці, выпіць. *Пырысяты пажлоктылі цэлае карытца пойла.* Пірагова Мсцісл.

ПАЖЛУ́КЦІЦЬ, *дзеясл.* Пажлукціць, папарыць у бочцы бялізну. *Плацьця пажлукцілі, цяпер нада беч на речку пылыскаць.* Белы Камень Бялынкав.

ПАЖЫ́ВА, -ы, *ж.* 1. Прыбытак, карысць. *Служу каторый год, а пажывы — ні на грош; ны яду чуць хыпаіць.* Слаўнае Мсцісл. 2. Яда, корм. *Як хуваўся ў лесе, дык яна яму насіла пажывы.* Жалезніца Краснап.

ПАЖЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Жыць. *Якаво́ пажывае твыя сістра?* Хоцімск. *Ну як пажываюць твае бацькі, ці здаровыя яшчэ?* Касцюковічы.

ПАЖЫВІ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Пажывіцца, пакарыстацца. *Пойдзем далей, тут нічым ні пажывісься.* Машавая Бялынкав. 2. Паесці. *Дос работыць, трэба нямнога пажывіцца.* Канічы Касцюк.

ПАЖЫЛА́НКА, -і, *ж.* Пажаданне. *Я хачу зыставіць табе адну пажыланку: каб твае дзеці ні 'дплацілі табе тым, чым ты мне пыспасібкываў.* Пірагова Мсцісл.

ПАЖЫ́ТКІ, -ткаў, *мн. л.* Пажыткі, маёмасць. *Сыбраў усі свае пажыткі і пашоў.* Арцёмаўка Міласл.

ПАЖЫ́ТЫК, -тка, *м.* Пажытак [прыбытак]. *Тут ужу пажытык такей — тры рублі ўсяго зырабіў.* Арцёмаўка Краснап.

ПАЖЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Пажыць. *Пажыў у іх месіц, другі, агоўтыўсь трохі, бачу — людзі нішто сабе.* Ушакі Чэрык.

ПАЖЫ́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Пажадаць. *Я давёз Аксёна да горіда, пажычыў яму шчасьця і рыспрішчаўся зь ім.* Лютня Краснап. 2. Пасуліць, дакляраваць. *Ён толькі пажычыў даць, а ні даў нічагуткі.* Хвёдараўка Краснап.

ПАЗ, -а, *м.* Паз, прарэзаны раўчак у дошцы ці бервяне. *Паз у лутках вялікі.* Пухнава Расням.

ПАЗАВАЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Паразбурвацца. *Апушчэнец ты, да чаго ты двор давёў, усі пуні пазаваліліся.* Пірагова Мсцісл.

ПАЗАВІ́ДЫЦЬ, *дзеясл.* Пазайздросціць. *Пазавідылі людзі на майго вяпрука, во ён і захварэў.* Пірагова Мсцісл.

ПАЗА́ДЗЬДЗЯ, -я, *н.* Пазаддзе, самае дрэннае зерне, якое пры веянні кладзецца ззаду за буйнейшым зернем перад мякінаю. *Сыбяры пазадзьдзя і аддай каню, хай зьесць.* Асавец Крыч. *Схадзі на гумно за пазадзьдзям.* Расна.

ПАЗВАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Пазводзіць. *Пазвадзілі ўсіх авечык, цяпер ні воўны, ні аўчыны і адзежы не с чыга зьдзелыць.* Бродкі Крыч.

ПАЗДАРАВЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Ачуняць, паздаравець, зрабіцца больш здаровым.

*Бацька хварэў нядзелі дзьве, цяпер нічога, паздаравеў.* Пірагова Мсцісл.

ПАЗНОТА, -ы, *ж.* Позні час. *Еткыя пазнота ўжо, а дзеці ня йдуць двору.* Палуж Краснап.

ПАЗОРЬНЫЙ, *прым.* Відны, статны. *Дзеўка хоць ні пазорна, а работыць умея.* Казельская Буда Краснап.

ПАЗЫКА, -і, *ж.* Пазыка. *Калі ні хопіць солі, сходзіш к суседзям у пазыкі, возьміш гаршчкі пасаліць.* Старае Сяло Мсцісл.

ПАЗЫЛКІ, -лак, *мн. л.* [Пазалкі], шчолак, які застаецца пасля мыцця бялізны. *Ні вылівай пазылкі пад парогам, ато будуць тухлець, аднясі далей.* Куркаўшчына Мсцісл. *Ідзі адцірай трапкі ў пазылках.* Буліна Касцюк. *У пазылкі трэба бяльлё пымачыць.* Горкі Краснап.

ПАЗЫСКАНЬНЯ, -я, *н.* Спагнанне. *Горш зы ўсяго мне ета пазысканьня — ні дай, дык пытаць ні будзеш.* Добрае Мсцісл.

ПАЗЫЧАЦЬ, *дзеясл.* Пазычаць. *Бацька пашоў пазычаць грошы на кыня.* Бродкі Крыч.

ПАЗЫЧЫЦЬ, *дзеясл.* Пазычыць. *Ці не пазычыце вы мне сірпа на дзень які?* Серчыцы Краснап. *На абед ня хопіць хлеба, трэба йці пазычыць да суседа.* Бабынічы Мсцісл. *Нада пазычыць у каго матыку ды пуматычыць бульбу, ато зарысла травою.* Бяседавічы Хоцім.

ПАЗЬБІРАЦЬ, *дзеясл.* Пазбіраць. *Пазьбірай, дзетка, бубычку, нашто парассыпыў?* Пірагова Мсцісл.

ПАЗЬНІЦЦА, *дзеясл.* Пазніцца. *Глядзі ж прыходзь раней, ні пазьніся.* Негін Касцюк. *Ні пазьнісь, Максімка, бо будзем чыкаць тут.* Багацькаўка Мсцісл.

ПАЙДАЦЬ, *дзеясл.* Пад'есці. *Ні сьпяшыце, ніхай ён пайдаіць троху.* Васілёўка Хоцім.

ПАЙКА, -і, *ж.* Шчасце, удача. *Вялікыя пайка твыя, што ты туды ні пыпаў.* Хвёдараўка Краснап.

ПАЙМАЦЬ, *дзеясл.* Паймаць, злавіць. *Я паймаў хрушча.* Карма Пайкі Краснап. *Ні паймаў за руку — ні кажы, што злодзій.* Зоры Чэрык.

ПАІНЫЙ, *прым.* Нітаваны [паяны]. *Паіныя трубка слабей за літыю.* Бяседавічы Хоцім.

ПАЙНЯЦЬ, *дзеясл.* Зразумець. *Што ён за чылавек, пайняць ніяк нельга.* Новы Дздзін Міласл. *Ён відна чужаземіц — гаворыць, дык пайняць нільзя.* Арцёмаўка Краснап.

ПАЙСТРЫЦЬ, *дзеясл.* Павастрыць. *Пайстры нож троху аб брусок, ато ні рэжыць.* Палуж Краснап. *Дзе ты дзеў асялок? Мне нада касу пайстрыць.* Арцёмаўка Міласл.

ПАЙСЬЦІ, *дзеясл.* Пайсці. *Стаў я ныпрытацца, каб пайсьці туды, аж прышоў ды мяне Рыгор, дык я ўжо ні пайшоў.* Палуж Краснап. *Марока яе ведаіць, куды йна пайшла.* Паўлавічы Клім. *Дзед пайшоў ны магільнік.* Хоцімск.

ПАЙЦІ, *дзеясл.* Пайсці. *Дзеўка парыцілася пайці на вічарынку.* Стрэшын.

ПАКАЁЎКА, -і, *ж.* Пакаёўка. *Наста служыла ў паноў пакаёўкаю.* Гібалы Касцюк.

ПАКАЗАЦЦА, *дзеясл.* Паказацца. *На небе паказаўся месік.* Чыгрынаўка Расняп. *Ужо вятох паказаўся на небе.* Буліна Касцюк.

ПАКАЛЕЦЬ, *дзеясл.* Памерзнуць. *Пакалелі мы саўсім, пакуль выцягнулі бульбу з погрыба.* Пірагова Мсцісл. *Рукі ны марозі пакалелі.* Вярбоўка Расняп.

ПАКАРАЦЕЦЬ, *дзеясл.* Пакарацець, зрабіцца больш кароткім. *Пакарацеў зусім мой армяк.* Робцы Расняп.

ПАКАЦІЦЦА, *дзеясл.* 1. Пакаціцца. *Капейка ўпала і пакацілася пыд лаўку.* Іванаўка Хоцім. *Ах, каб ён згарэў, як ён умея йграць; як зайграе, так аж сьлёзы пакоцяцца.* Парадзіна Мсцісл. 2. Упасці, паваліцца. *Як ударыў я яго, дык ён і пакаціўся.* Хоцімск.

ПАКАЦІЦЬ, *дзеясл.* Пакаціць. *Сымон пакаціў нейкую бочку ў гумно.* Крывы Лес Шумяц. *Пакаці, Янка, абручык!* Шарэйкі Касцюк.

ПАКВАПІЦЦА, *дзеясл.* Пакваліцца, пазайздрыць. *Паквапілась дзеўка на быгацьця, дык цяпер і бядуець.* Сохана Мсцісл. *Паквапіўся на чужое дабро.* Негін Касцюк.

ПАКІНУТЫЙ, *прым.* Пакінуты. *Як пакінутэй сыбака, лётаў пы бызару, шукаючы жонку.* Старае Сяло Мсцісл.

ПАКІНУЦЬ, *дзеясл.* Пакінуць. *Пакінь ты ўжо вярхыць, апрыкла ўжо!* Старае Сяло Мсцісл. *Гэсты край ніколі ні пакіну — тут жа я радзіўся.* Ушакі Чэрык. *Сварылііся зы мяжу, ажно й абкосык пакінулі.* Віхраны Мсцісл.

ПАКЛАДАЦЦА, *дзеясл.* Згаворвацца. *Пакладалыся іна ісьці са мною ў лес, ды нешта ні пышла.* Іванаўка Хоцім. *Як разыходзіліся — паклаліся, каб сустрэцца нам у панядзелак ураньні.* Пірагова Мсцісл.

ПАКЛАДЗЕНЫЙ, *прым.* [Пакладзены]. *У старой хаце ў мяне зімля, а ў новай мост пакладзен.* Пірагова Мсцісл.

ПАКЛАСЬЦЬ, *дзеясл.* [Пакласці], палажыць. *Пакладзі мне што-нібудзь у гылывашкі.* Гібалы Касцюк. *Недзе паклаў рукавіцы і ні ведаю дзе.* Васілёўка Хоцім. *Скора гумно наша будзець скончана: ужо нувугольнікі на страсе паклалі.* Пірагова Мсцісл.

ПАКЛЁП, -у, *м.* [Паклёп], хлуслівае абвінавачванне. *Што ты ны мяне паклёпы ўзводзіш?* Хвёдараўка Краснап. *Ета паклёп ны мяне ты ўзводзіш!* Гарбавічы Касцюк.

ПАКЛІКАЦЬ, *дзеясл.* Паклікаць. *Пакліч кур, ніхай зьдзіўбаюць крошкі, што пырассыпаў пы хаці.* Гарадок Расняп.

ПАКЛОН, -а, *м.* Паклон, прывітанне. *Асаблівый паклон перыдай майму татку.* Пірагова Мсцісл. *Паклоны табе ад маткі.* Хоцімск.

ПАКЛЫЧЫЦЬ, *дзеясл.* Падратаваць, патаптаць. *Коні паклычылі чыста лён.* Хвёдараўка Краснап.

ПАКОЙ, -ю, *м.* Спакой. *Такей жа галуза, што ніўдзе пакою яму німа.* Бяседавічы Хоцім.

ПАКОЙНІК, -а, *м.* Пакойнік, нябожчык. *Труна пакойніку гатова.* Людагошч Мсцісл. *Добры чылавек быў пакойнік, ніхай*

*яму зімля пухам будзе.* Роськаў Калінінщчына.

ПАКО́ЙНІЦА, -ы, *ж.* Пакойніца, нябожчыца. *Ета мне йшчэ пакойніца матка зрабіла кажух.* Ушакі Чэрык. *Пакойніца Тадора бывала ўсё кажа, што іна хутка памрэць — ведыла сваю сьмерць.* Бардзіч Краснап.

ПАКО́Н, -у, *м.* Смерць [скон]. *Ох! Хоць бы скарэй пакон прышоў — гэстак жа цяжка жыць хвораму на сьвеці.* Ушакі Чэрык.

ПАКО́НІШЧА, -а, *н.* Могільнік. *Пынясьлі ўжо нашыга нібошчыка ны паконішча.* Ушакі Чэрык.

ПАКО́РА, -ы, *ж.* 1. Пакора. *Еткыя ў яго ўжо пакора, што, здаецца, усё зьдзелыіць, што ні скажы.* Ушакі Чэрык. 2. Лубяное пакрыцце лодкі ад дажджу. *Пакора працякала наскрозь, і вады поўна лодка ныбралысь.* Тур'я Чэрык.

ПАКО́РНА, *прысл.* Пакорна. *Іна стала пакорна ўсё зносіць біз мужыка — некыму заступіцца.* Новы Дзедзін Міласл.

ПАКО́РНЫЙ, *прым.* Пакорлівы. *Пакорны хлопіц удаўсь, усіх слухаець.* Глупікі Крыч. *Нябось біз мужука пакорна стала, цяпер сьвякрову ўва ўсім слухаіць.* Арцёмаўка Міласл.

ПАКО́С, -а, *м.* Пракос, рад, пройдзены касцом. *Ну-ка, брат, прайдзі пакосы два, усё ж я скарей дыкашу.* Бяседавічы Хоцім.

ПАКО́Т, -у, *м.* 1. Пакот, жэрдкі, пакладзеныя замест столі ў гумне ці на хлеве. *Навой і пабілкі пылажы ў клеці ны пакот.* Бяседавічы Хоцім. *Пакот кладзецца часта, каб злодзей ня ўлез.* Горкі. 2. Жэрдкі, што кладуцца на ключы для асновы страхі. *На хату ўжо прывязьлі пакот.* Машавая Бялынкав. *Пакот ужо пакладзен, заўтры крыць пачнём.* Пухнава Мсцісл.

ПА́КОТНІК, -а, *м.* Чалавек, што дрэнна робіць. *Пакотнік ты, што ты зьдзелыў, ці ж можна так?* Слаўнае Мсцісл.

ПАКО́ЦЬВІНА, -ы, *ж.* Лата, жэрдка, што кладзецца на ключы для асновы страхі. *Ета пакоцьвіна тонкыя, за яе і саломы ні прівяжыш.* Барысавічы Клім. *Мы свой інбар пасьці ўжо скончылі, толькі пакоцьвіны пыкласьць і крыць можна.* Пірагова Мсцісл.

ПАКРА́СІЦЬ, *дзеясл.* Пафарбаваць. *Як пакрасіла ты сваю воўну, дык і андрак папрыгажэў.* Новыя Капачы Мсцісл.

ПАКРІ́ЎДЗІЦЦА, *дзеясл.* Пакрыўдзіцца. *Пакріўдзілась ны мяне Наста за тоя, што я ні дыла ёй сваe сукенкі ныпрянуць.* Маляцічы Крыч.

ПАКРІ́ЎДЗІЦЬ, *дзеясл.* Пакрыўдзіць. *Ідзі, ідзі сюды, дзетычка, хто цябе пакріўдзіў?* Гарбавічы Касцюк.

ПАКРУЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Пакруціць. *Пакруці навой, ато ўснова аслабла.* Дрыбін.

ПАКРЫ́УДЗІЦЬ, *дзеясл.* Пакрыўдзіць. *Каб зы яго другія не заступіліся, дык ба гэтыя пакрыўдзілі.* Сохана Мсцісл.

ПАКРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Пакрыць. *Сьнег пакрыў усю землю.* Хоцімск. *Мы йгралі ў карты, дык ён шосткую хацеў пакрыць дзявятку, во жулік!* Арцёмаўка Міласл.

ПАКРЭ́ПНУЦЬ, *дзеясл.* Пакрэпнуць, адубянець ад холаду. *Капалі бульбу, дык памерзьлі, мае рукі пакрэплі, як кычарэжкі зьдзелылісь.* Пірагова Мсцісл.

ПА́КУДА, *прысл.* Пакуль. *Ехыў, ехыў, пакуда ні даехыў.* Палуж Краснап.

ПАКУ́КАЦЬ, *дзеясл.* Пакукаваць. *Пакукай, зязюлька, пакукай, серыя! Колькі мне гадоў жыць?* Гібалы Касцюк.

ПАКУ́ЛЬ, *прысл.* Пакуль. *Пакуль сонца ўзыйдзець — рыса вочы выесьць.* Арцёмаўка Міласл. *Во, юга старыя, пакуль муўчала.* Бяседавічы Хоцім. *Гуталіся, пакуль нагуталіся.* Палуж Краснап.

ПА́КУЛЬЛЯ, па́кыльля, -я, *н.* [Пакулле], клочча, абскубкі з лёну ці канапель. *Дай мне пакульля завізаць мяшочак.* Хлышчы Мсцісл. *Гэта пакульля яшчэ згадзіцца, зь яго можна путы віць.* Татаршчына Мсцісл. *Во пакыльля пынадзелыла па ўсёй хаці.* Брылёўка Краснап.

ПАКУ́ТА, -ы, *ж.* Пакута. *Зы якія ета гряхі ны мяне тыкая пакута.* Дубеец Касцюк. *Пакута за ніпраўду грызець маё серца.* Слаўнае Мсцісл.

ПАКУ́ШТАЦЬ, *дзеясл.* Пастукаць аб зубы яйцо, паспрабаваць, ці моцнае. *Дай пакуштаць мне яйцо, ці крэпка яно.* Крычаў.

ПАКУ́ШЫЦЬ, *дзеясл.* Пакаштаваць, паспрабаваць. *Ды ты пакушый, ета ж ня рэдзька, а мёд; такой ты з роду ня еў.* Парадзіна Мсцісл. *Квас такей смашный! Каб пакушыў яго — за вуха ні атвёў бы ат відра.* Старае Сяло Мсцісл.

ПА́КЫЛКА, -і, *ж.* Кій, палка. *Як зьдзімлянуў яго пакылкый, дык аж увагнуўся. Пакылкый яго бі па сьпіне.* Хвёдараўка Краснап.

ПАЛАВІ́ЦА, -ы, *ж.* Дошка ў падлозе, масніца. *Пылавіцы ў мосьце пагнілі, нада зміняць на новыя.* Гібалы Касцюк.

ПАЛАВЫ́Й, *прым.* Палавы, светлажоўты. *Красівый у мяне быў конь, сам палавый і лысіна на лбе.* Пірагова Мсцісл.

ПАЛА́ГА, -і, *ж.* Уласнае імя Палагея. *Палага, ушый мне гаплік у кабат.* Дубеец Касцюк.

ПАЛАЖЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Палажыць, пакласці. *Жыта палажылі на гумне ў пасад.* Крычаў.

ПАЛАМА́ЦЦА, *дзеясл.* Зламацца, паламацца. *Трэба накліску перамяніць, ато сані саўсім паламаюцца.* Глупікі Крыч. *Паламалась цапілна.* Машавая Бялынкав.

ПАЛАМКІ, -аў, *мн. л.* Абдзіркі пасля круп. *Абыдраў крупы, а паламкі сабе зыставіў.* Хвёдараўка Краснап.

ПАЛАТНО́, -а, *н.* Палатно. *На навой наматана палатно.* Пацкава Мсцісл. *Ніткі тонкія, дык і палатно выходзіць тонкае, роўнае.* Хлышчы Мсцісл.

ПАЛАТНЯ́НЫЙ, *прым.* Палатняны, зроблены з палатна. *Гречка ў палатняным мяху, а жыта ў рядняным.* Машавая Бялынкав.

ПАЛАХЛІ́ВА, *прысл.* Палахліва, баязліва. *Іна палахліва азіралась, ці ні глядзіць хто — ды кінулась уцікаць.* Ушакі Чэрык.

ПАЛАХЛІ́ВЫЙ, *прым.* Палахлівы, баязлівы. *Етый конь дужа палахлівый.* Дубеец Касцюк.

ПАЛА́ЦІ, -яй, *мн. л.* Палаці над печкаю для спання. *Цёпла мне спалась сёньня*

*на палаціх*. Глупікі Крыч. *Як табе ня стыдна — залез на палаці і сьпіць, як стары*. Новае Сяло Мсцісл. *Дзед палез спаць на палаці*. Ганнаўка Клім. *У нашай дзярэўне палаці робяцца ў хатах пад самаю стольлю*. Пірагова Мсцісл.

ПАЛА́ЦЬ, *дзеясл.* Палаць, апалаць. *Стоўчаны ў ступе ячмень палаюць, каб чыстыя крупы былі*. Палуж Краснап.

ПАЛЁГКА, -і, *ж.* Палёгка. *Сёліта нам у налогах ёсьць палёгка*. Слаўнае Мсцісл.

ПАЛЕ́ГЧЫ, *дзеясл.* Палегчы. *Дзеці ўгамуваліся і палеглі спаць*. Сохана Мсцісл. *Каровы наелісь, палеглі і жуюць сабе*. Серчыцы Краснап.

ПАЛЕ́ГЧЫЦЬ, *дзеясл.* Палегчыць, зрабіць больш лёгкім. *Нада б воз палегчыць*. Слаўнае Мсцісл.

ПАЛЕ́ЖНА, *прысл.*Назнарок. *Я палежна скызаў, штоб вы самі пубачылі, што дзелыцца*. Лютня Краснап.

ПАЛЕ́ТКУ, *прысл.* Па-летняму. *Рызадзеўся палетку*. Палуж Краснап.

ПАЛЕ́ТНІК, -а, *м.* Батрак. *Ці добрэй твой сёлітній палетнік? Мой брат ныняў сабе палетніка*. Хвёдараўка Краснап.

ПАЛЕ́ТУ, *прысл.* Улетку. *Палету і без шубы можна абыйціцца*. Куркаўшчына Мсцісл.

ПАЛЕ́ТЫК, -тка, *м.* 1. Палетак, поле. *Палетык вялікі, як вокам кінуць, засеяны пшаніцай*. Мсціслаў. *У гэстым палетку сёліта будзем сеяць жыта*. Ушакі Чэрык. 2. Аднагодак. *Прыдаў я бычка-палетка за дваццыць восім рублёў*. Пірагова Мсцісл. *У мяне ёсьць цялушка і бычок-палетык, а болі нічога німа*. Камароўка Крыч.

ПАЛЕ́ХЧЫЦЬ, *дзеясл.* Палегчыць [зрабіць больш лёгкім]. *Сёліта налог трохі палехчыў, а беднату і саўсім звольнілі*. Пірагова Мсцісл.

ПАЛІ́К, -а, *м.* 1. Паль, калочак, што ўбіваецца ў зямлю для адзнакі мяжы на балоце. *На што ты выйрваў мой палік? Хвёдараўка Краснап. Я забіў на сваём маржку палік*. Рылаўшчына Мсцісл. *У траве ледзь найшоў палікі*. Расна. 2. Вышыты каляровымі ніткамі ўзор на плячах або на рукаве сарочкі. *Хадоска вышыла сабе на сароццы палікі*. Гібалы Касцюк. *У мяне сарочка з палікамі*. Ташна Расіян. *Твае палікі красюць усю тваю сарочку*. Новыя Капачы. Мсцісл. *У Алёны ў сароццы прыгожыя палікі*. Машавая Бялынкаў.

ПАЛІРО́ЎКА, -і, *ж.* Паліроўка. *Нешта ні ўдылась у мяне паліройка, шахва ніскалька ні блішчыць*. Лешчынка Мсцісл.

ПАЛІСА́ДНІК, -а, *м.* Кветнік перад вокнамі хаты. *Нада пысадзіць у палісадніку яргіну і іншыя кветак*. Татаршчына Мсцісл.

ПАЛІТО́, -а, *н.* Паліто. *Тваё паліто дужа выцьвіла*. Дзямідавічы Касцюк.

ПА́ЛІЦ, па́льца, *м.* Палец. *Учора Іван, рэзаўшы дровы ў лесі, адхваціў сабе паліц*. Добрае Мсцісл.

ПАЛІ́ЦА, -ы, *ж.* 1. Паліца. *Кніжкі ліжаць ны паліцы*. Глупікі Крыч. *Паліца дужа высока, ні дыстаць зь яе нічога*. Мацутаўка Расіян. *Дастань, Янка, хлеб з паліцы*. Новыя Капачы Мсцісл. 2. Адвал у сасе. *Аручы ў етый багні, паліцу злымаў*. Брылёўка Краснап.

ПАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Паліць. *Паліць цяпло ў лесе перад Купалым — абычайнысьць у нашай мясцовасьці*. Каробчына Мсцісл.

ПАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Паліць вадою. *Нада грады паліць, ато ўсё пызасохла*. Асмолавічы Мсцісл.

ПАЛІ́ЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад паліца. *Гаршчок пыстаў ны палічку*. Хвёдараўка Краснап.

ПА́ЛКА, -і, *ж.* Палка, кій. *Вазьмі вон палку ды адгані сьвіней ад парога*. Глупікі Крыч. *Дзед выцягывыіць гвозьдзя з палкі*. Стары Дзедзін Міласл.

ПАЛКІ́Й, *прым.* Палкі, гаручы. *Смольныя карчы палкія: толькі пыднясі сьпічку, дык зразу ўспыхнуць*. Горня Хоцімск.

ПАЛО́ВА, -ы, *ж.* 1. Мякіна. *Гаспадар веяў кучу і адмятаў палову*. Дзяніскавічы Касцюк. 2. Палавіна. *У жыці ны палову звынца зырадзіла*. Парадзіна Мсцісл.

ПАЛО́ВЫЙ, *прым.* Нявеяны, з мякінай. *Паловы хлеб нясмачны*. Касцюшкавічы Крыч.

ПАЛО́ДНІК, -а, *м.* Палонік, вялікая кухонная лыжка. *Хлопіц хоча пы палодніку сёрбаць*. Бялынкавічы. *Улі мне палоднік варіва*. Бардзіч Краснап.

ПАЛО́ЗЬЗЯ, -я, *н. зборн.* Палазы. *Гэтаю даўбешкаю вельмі добра прабіваць палозьзя — дзіркі на капылы*. Ташна Клім.

ПАЛО́К, пылка́, *м.* Паліца ў лазні. *Ты, як пойдзеш у лазьню, дык духу ня бойсь, а ўзьлезь ны палок ды выпарься хырашэнька — уся ламота пройдзіць*. Слаўнае Мсцісл.

ПАЛО́МАНЫЙ, *прым.* Паламаны. *Еты кол паломан, ні гадзіцца*. Хоцімск. *У маёй хаці паломаны ганкі*. Кокатава Мсцісл. *Тростка паломана*. Іванаўка Хоцім.

ПАЛО́НІК, -а, *м.* Апалонік, вялікая кухонная лыжка. *Дай мне йшчэ адзін палонік боршчу — дужа смашны*. Белы Мох Мсцісл. *Марылька, налі палонікым крупені ў міску*. Роськаў КалінінШчына.

ПАЛО́НЬНІК, -а, *м.* 1. Апалонік. *Маці прынесла палоньнік і пачыла ім налівяць яду*. Баеўка Крыч. *Дай мне палоньнік варыва*. Зялёны Луг Мсцісл. 2. Галавасцік, апалонік. *З лягушычыга квыктавіньня выводзюцца паперша палоньнікі, з якіх вырыстаюць ужу лягушкі*. Слаўнае Мсцісл. *Хлопчык нылавіў палоньнікыў ды й балуіцца*. Хвёдараўка Краснап. *У паніўцы многа палоньнікаў*. Вародзькава Крыч.

ПАЛО́СКА, -і, *ж.* Шнур зямлі. *Ны палосцы Шахніхі ўжо зарысьць пышла*. Палуж Краснап.

ПАЛО́СНА, *прысл.* Палоскамі, шнурамі. *Палосна будуць зямлю дзяліць*. Хвёдараўка Краснап.

ПАЛО́ЦЬ, *дзеясл.* Палоць, вырываць пустазелле. *Лён палоць трэба, зарос увесь жыцікам ды сьвірэпаю*. Бакунавічы Чэрык. *Палола, палола — усі кокці прідрала*. Гібалы Касцюк.

ПАЛТРЕ́Т, -а, *м.* Партрэт. *Яшчэ да етыга году вісеў дзедыў палтрет ны сьцяне, а сёліта дзеці яго пырвалі*. Бяседавічы Хоцім.

ПАЛУ́ДНЫВАЦЬ, *дзеясл.* Палуднаваць, абедаць. *Касцы пашлі пад дуба палуднываць*. Гарбавічы Касцюк. *Пара палуд-*

*ниваць, сонца ўжо вунь куды зайшло.* Хоцімск.

ПАЛУДУ́Р, -а, *м.* Прыдуркаваты. *Чаго ты зьвізаўся з палудурам етым?* Краснаполле.

ПАЛУМА́ЦЦА, *дзеясл.* Паламацца. *Палумаўся цапок у нітах.* Новыя Капачы Мсцісл.

ПАЛУ́НЫЧ, -ы, *ж.* Поўнач. *Я прышоў двору якраз у палуныч, як первыя пітухі пелі.* Бяседавічы Хоцім.

ПАЛУСА́ДНІК, -а, *м.* Палісаднік [кветнік]. *У палусадніку пысаджыны розныя цьвяты.* Іванаўка Хоцім.

ПАЛУСІ́ТЫК, -тка, *м.* Сіта, частае рэшата. *Ны пулусітык мы сеім пышанішную муку на пірагі.* Слаўнае Мсцісл.

ПАЛУСЬВЕ́Т, -а, *м.* Прайдзісвет. *Ці ты ні знаіш етыга палусьвета? Прайды ат яго ні пачуіш.* Хвёдараўка Краснап.

ПАЛУ́ТЫРКА, -і, *ж.* 1. Паўтарачка, дошка таўшчынёй у паўтары цалі. *Напілывалі дошчак палутырак.* Хвёдараўка Краснап. 2. Паўтары сажні дроў. *Палутырку дроў вывіз.* Там жа.

ПАЛУЧА́ЦЦА, *дзеясл.* Выходзіць, рабіцца [атрымлівацца[. *Калі пацерці мыльнянкай у вадзе, дык палучаіцца пена, найродзі мыла — таму ету траву і завуць мыльнянкай.* Пірагова Мсцісл.

ПАЛУЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Атрымаць. *Я палучыў ад вучыціля харошый ныганяй, што ня выўчыў урока.* Слаўнае Мсцісл.

ПАЛЫН, -у, *м. бат.* Палын. *Ны мяжы парос палын вышы жыта.* Новы Дзедзін Міласл.

ПАЛЬНІ́ЦА, -ы, *ж.* Палавіца, масніца. *Прывалілысь пальніца ў масту.* Хвёдараўка Краснап.

ПАЛЬТО́, -а, *н.* Паліто. *Атварот майго пальта зьдзелан з мульту, дык цёплыя яно.* Пірагова Мсцісл.

ПА-ЛЮ́ДЗКУ, *прысл.* Па-людску. *Хуцьба гыварію чылавек па-людзку, ато лымаіцца, пляцець.* Слаўнае Мсцісл. *Скора прыйдзе тый час, што і мы зажывём па-людзку.* Мсціслаў.

ПАЛЯВІ́К, -а, *м.* Палявы грыб. *Расьцець палявік на полі.* Бяседавічы Хоцім.

ПАЛЯВЫ́Й, *прым.* Палявік, дух поля. *У старыну палявы лічыўся за бога і цяпер яшчэ старэя людзі веруць у палявога.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ПАЛЯ́ДАК, -дка, *м.* Ляда, высечаны лес пад поле. *Пылядак грэчкаю засеілі. На палядку жыта ладныя парасло.* Барысавічы Клім.

ПАЛЯЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Паляжаць. *Зытаміўся я, дык пасьля полудню паляжаць захацелась.* Пірагова Мсцісл.

ПАЛЯНІ́ЦА, -ы, *ж.* Невялікая прадаўгаватая булка з белае мукі. *У радзіцільскую суботу поп за памінальніцы назьбірае пуды са тры паляніц.* Куляшоўка Клім.

ПАЛЯ́НУЦЬ, *дзеясл.* Паглядзець. *Палянь на неба, вясёлка стаіць — гэста ны пагоду.* Ушакі Чэрык.

ПАЛЯЦЕ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Паляцець. *Глядзі, вунь буцян паляцеў!* Глінь Касцюк. 2. Упасці. *Во, як бы паляцеў у гэту кулдобіну.* Крычаў. *Матуз адарваўся, і хвартук паляцеў ны падлогу.* Пацкава Мсцісл.

ПАМАГА́ЦЬ, *дзеясл.* Памагаць. *Будзем адзін аднаму памагаць, дык і жыць будзем.* Гарцуеўка Краснап. *Бабы зьбіраюць гарлянку, кажуць, што яна памагаець, калі горла абкладзець.* Пірагова Мсцісл.

ПАМАГЧЫ́ [памóжч], *дзеясл.* 1. Памагчы, дапамагчы. *Памажы абярнуць у пуні воз сена.* Сохана Мсцісл. *Памажы мне навіць кросны на навой.* Баеўка Крыч. 2. Перамагчы, падужаць. *Макар паможа Хведара, бо крапчэй зы яго.* Гарцуеўка Краснап.

ПАМА́ЗАЦЬ, *дзеясл.* Памазаць. *Вазьмі квач і памаж калёсы! Нечым памазаць, мазі німа.* Крычаў.

ПАМА́ЛУ, *прысл.* Памалу, патроху. *Памалу-памалу, але аткалупай сабе кусок.* Пірагова Мсцісл.

ПАМА́ЦАЦЬ, *дзеясл.* Памацаць. *Памацай рукою бульбу, мо ўжо сьпіклася.* Гібалы Касцюк.

ПАМЕ́НІНЫЙ, *прым.* 1. Выменены, абменены. *Паменіным канем быгата ні прівізеш, таму яго й міняюць, што ён нігодный.* Мануйлы Краснап. 2. Паменшаны.

ПАМЕ́НЬШЫЦЬ, *дзеясл.* Зменшыць, зрабіць меншым .*Трэба паменьшыць еты сыян, ато ён ны мяне дужа вялік.* Хоцімск.

ПАМЕ́РЗНУЦЬ, *дзеясл.* Памерзнуць. *Аўчарык нада абкыныпацiць мохум, ато памерзнуць ігняткі.* Бяседавічы Хоцім. *Пакуль вады ынасіла, рукі чыста памерзлі.* Зяціца Мсцісл.

ПАМЕ́РЦЬ, *дзеясл.* Памерці. *Лучшы памерць, чымся ў яго прасіць.* Арцёмаўка Міласл. *Памерла сягоньня жанчына.* Хоцімск. *Надойчы я яго здаровага бачыў, а сёньня ўжо й памёр!* Парадзіна Мсцісл.

ПАМЕ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Памераць. *Прынясі мерку, нада памерыць, сколькі тут будзіць бульбы.* Бяседавічы Хоцім.

ПАМЕ́РЬНЫЙ, *прым.* Сходны, памяркоўны. *Купляй карову: карова ладныя, і цына памерьныя, дзішавей найрад ці знойдзеш.* Мсціслаў.

ПАМЕ́РЬШЫЙ, *прым.* Памерлы, нябожчык. *Ета патрэт памерьшыга сына, ужу два гады, як ён памёр.* Бяседавічы Хоцім.

ПАМЕ́ЦЦА, *дзеясл.* Мець намер, жаданне, абяцаць. *Ён памеўся прыехаць, як жаня прыедзе?* Палуж Краснап. *Нада было мне памецца ў іх быць, а цяпер ні магу пайці — зря яны будуць мяне дыжыдаць.* Бяседавічы Хоцім.

ПАМЕ́ШКА, -і, *ж.* 1. Перашкода. *Так дарога хырыша, толькі адна памешка, ета піряехыць чыріз балота.* Бяседавічы Хоцім. 2. Блытаніна. *Памешкі зьдзелылісь у кроснах.* Хвёдараўка Краснап.

ПАМІ́Ж, *прыназ.* Паміж. *Змова паміж імі ёсьць, няйначай, абмішулівыць людзей.* Паўлавічы Клім. *Паміж хатай і пуняй зрабілі замёт.* Машавая Бялынкав. *Я паміж двух сясьцёр сярэдняя.* Слаўнае Мсцісл.

ПАМІ́Н -у, *м.* Памінанне, успамін, памінкі. *Ны радуніцу будзіць памін пу пакойнікых.* Слаўнае Мсцісл. *Пра тое, што было, ужо й паміну няма.* Дарагая Крыч.

ПАМІНА́ЦЬ, *дзеясл.* Успамінаць. *Нешта ійкаіцца, знаць нехта нейдзі памінаіць мяне.* Сохана Мсцісл.

ПАМІРА́ЦЬ, *дзеясл.* Уміраць. *Асіліла мяне хвароба, паміраю я ўжо.* Пірагова Мсцісл. *Паміраючы, матка адказала хутру дачцэ.* Куляшоўка Клім.

ПАМІРКУВА́НЬНЯ, -я, *н.* Меркаванне, рахунак у думках. *Ні к чаму тут тваё паміркуваньня, усёдно купляць ня будзім: ні хваціць грошы.* Бяседавічы Хоцім.

ПАМІРКУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Памеркавацца [падзяліць, як кажа сумленне]. *Памяркуйцеся паміжсобку, каб крыўды нікому ні было.* Мсціслаў.

ПА́МІЦЬНІК, -а, *м.* Помнік, намагільнік. *Арьхіп пу бацьку паміцьнік будзіць ставіць і агырёжу лі магілкі.* Краснаполле.

ПАМІШЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Змяшчаць. *З тых пор, як сталі памішчаць мае заметкі ў газету, стаў я і грошы пылучаць.* Бяседавічы Хоцім.

ПАМКНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Памкнуцца. *Спычатку памкнуўся іці ў адзін бок, а потым пашоў нызад.* Сохана Мсцісл. *Памкнуўся нешта скызаць, ды ні скызаў, раздумаў.* Баеўка Крыч.

ПАМНО́ГА, *прысл.* Многа. *Памнога ты ясі, етык ні хваціць табе таго, што зырыбляіш.* Слаўнае Мсцісл.

ПАМО́ВА, -ы, *ж.* [Змовіны]. *Гапка выходзіць зы Уласа ўзамуж, ужо й памова была.* Палуж Краснап.

ПАМО́КЛЫЙ, *прым.* Памоклы, змоклы. *Прышлі яны такія памоклыя — ну ніткі на іх сухой ні было.* Ушакі Чэрык.

ПАМО́НІЦЬ, *дзеясл.* Паклікаць. *Нада курэй памоніць, ніхай пыдзяўбуць рассыпаныя зірняты.* Большая Багацькаўка Мсцісл.

ПАМО́Ў, -ву, *м.* Умова. *Ты ж мой памоў знаеш — тры рублі на дзень і харч, тады пайду ны работу.* Палуж Краснап.

ПАМО́Ч, *дзеясл.* Памагчы. *Ён прасіў памоч яму дыкасіць той маржок — нада паслухаць.* Лешчынка Мсцісл.

ПАМПУ́ШКА, -і, *ж.* 1. Аладка. *У нас сяньні ладкі, пампушкі.* Канічы Касцюк. 2. *бат.* Порхаўка. *Рыздавіў пампушку ны балоці.* Турэйск Краснап.

ПАМРО́К, -а, *м.* Замарачэнне. *Ні віряшчыця вы, сьціхніце, ато пампрок зрабілі сваім крікам — гылыва баліць.* Шумячы.

ПАМСЬЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Адважыцца, намерыцца [надумацца]. *Нада ж было яму памсьціцца красьць кыня.* Слаўнае Мсцісл.

ПАМЫ́ЙКІ, -ік, *мн. л.* Памыі. *Налілі целую шайку памыік. Памыйкі ад бульбы стыяць пыд лавый — вылі іх у карыта, ніхай сьвіньні зьядуць.* Слаўнае Мсцісл.

ПАМЫ́ЙНІЦА, -ы, *ж.* Памыйніца, пасудзіна, куды зліваюць памыі. *Памыйніца, поўна памыік, стаіць ад раньня, і ніхто ня выльлець.* Баеўка Крыч.

ПАМЫ́ІНЫ, -аў, *мн. л.* Памыі. *Памыйніца была наліта поўна рознымі памыінымі, і ад яе дужа тухлела.* Арцёмаўка Міласл.

ПАМЫЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Памыліцца. *Я памыліўся, думаў, што ета Міхась, аж ета сусім нізнаёмы чылавек.* Барысавічы Клім.

ПАМЫЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Памыляцца. *Німа такога чылавека, якей ба ні памыляўся.* Гібалы Касцюк. *Ні памыляецца хіба той, хто нічога ня робіць.* Дубровіцы Клім.

ПАМЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Памыцца, умыцца. *Прынясі вады, ато німа чым памыцца.* Бялішчына Мсцісл. *Памыйсь там ныд мякіньніцыю.* Бяседавічы Хоцім.

ПАМЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Памыць. *Трэба к сьвяту ў хаце мост памыць.* Смольская Буда Бялынкав. *Памоім заўтры набожнік, ато дужа ён брудны.* Крычаў. *Памый мост, ато заўтры сьвята.* Галоўчыцы Калінінчына.

ПА́МЯТАЦЬ, *дзеясл.* Памятаць. *Запынтала табе — ні памятаеш!* Тур'я Чэрык. *Хто з тутэйшых мужукоў памятаець прыгон?* Сохана Мсцісл.

ПАНАВО́РЫШЧУ, *прысл.* Нечакана, выпадкова. *Панаворышчу спыткаліся і пашлі разым.* Людагошч Мсцісл.

ПАНАЕ́ХАЦЬ, *дзеясл.* [Панаехаць], наехаць у вялікай колькасці. *На вёску панаехала анцылерыя.* Мацутаўка Раснян. *На бызар панаехала людзей, што ні пралезіш нідзе.* Клімавічы.

ПАНАЖЫ́, -оў, *мн. л.* Панажы. *Лёкса прівізала к нітам панажы.* Гібалы Касцюк. *Ня гэтыя панажы цісьнеш, ня ладна выйдзець.* Юркаўка Крыч. *У чатыры ніты тчэш і ў панажох путаісься.* Буліна Касцюк.

ПАНАЙЦІ́, *дзеясл.* Прыйсці многім [папапрыходзіць]. *Панайшло народу — поўныя хата.* Пірагова Мсцісл.

ПАНАРО́ЎКА, -і, *ж.* Панароўка [звычка, паводзіны]. *Дычка ў матку ўдылася: маткіны вочы, бровы, маткіны й панароўкі.* Палуж Краснап.

ПАНА́С, -а, *м.* Уласнае імя Апанас. *У Панаса сяньня вясельля.* Чыгрынаўка Раснян.

ПАНА́ЎКА, -і, *ж.* Палонка. *Сёліта лёд ны рацэ такі тоўсты, што чуць панаўку прасекла, каб папыласкаць бялізну.* Ушакі Чэрык.

ПАНАЎЧЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Панавучвацца. *Як ні стала махоркі, дык усе панаўчыліcь тыбаку сеіць.* Рылаўшчына Мсцісл.

ПАНАЧЫПЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* [Паначапляцца], начапляцца ў вялікай колькасці. *Конь хадзіў недзе каля плоту — паначыпляліся ў грыву дзяды.* Пірагова Мсцісл.

ПА-НА́ШЫМУ, *прысл.* Па-нашаму. *Прыехылі з Менску, а гаворяць па-нашыму.* Студзянец Касцюк.

ПАНЕ́БНІК, -а, *м.* Пруцік у кроснах, за які чапляюць ніты. *Вісокі ўжо сталі панебнікі, даўгея аборкі нада.* Хвёдараўка Краснап.

ПАНЕ́БНІЦА, -ы, *ж.* Пруцік у кроснах, за які чапляюць ніты. *Панебніца ляжыць на ставіцінах, за яе чапляюцца чапёлкі да нітой і набілкі.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ПАНЁВА, -ы, *ж.* Панёва, суконная саматканая спадніца. *Я выткала і пашыла сабе панёву.* Усцінавічы Краснап. *Пазыч ты, таічка, мне свае сіняе панёвы ны вясельля схадзіць.* Журбін Бялынкав. *Баба надзела панёву.* Іванаўка Хоцім.

ПАНЕ́НКА, -і, *ж.* Паненка. *У Лукыша дычка, дык ныстыяшчыя паненка: людзі ў поля ідуць, а іна ў цянёчку сядзіць.* Хвёдараўка Краснап.

ПАНЕ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Панесці. *Панаса панесьлі ўжо на могільнік.* Пухнава Раснян. *Нешта Максім панёс дахаты.* Баеўка

Крыч. *Ішоў аўтобус, конь упудзіўсь і панёс, чуць калёс ні пыразьбіў.* Парадзіна Мсцісл.

ПАНЕ́СЬЦІСЯ [панéсца], *дзеясл.* Панесціся, пабегчы. *Увыскачку панёсься двору, як пачуў, што бацька прыехаў з кірмашу.* Палуж Краснап.

ПАНІ́КЫШЧА, -а, *н. бат.* Панікніца. *Пу балоці кыла ручыя панікышча быгата.* Лютня Краснап.

ПА́НІЎКА, -і, *ж.* Палонка. *Ідзі прысячы паніўку ны рэцэ.* Касцюковічы. *Ідучы па лёдзе, я чуць не ўваліўся ў паніўку.* Вародзькава Крыч. *Паніўка чуць-чуць замерзла і сьнегум яе завеіла, дык ён, як стаў ны яе, дак і паехуў пад лёд.* Бяседавічы Хоцім.

ПАНО́НІЧА, *прысл.* Дагэтуль, да гэтага часу. *Сын паехуў ны шахты і панонічa там.* Палуж Краснап.

ПА́НСКІЙ, *прым.* Панскі. *У яго манера панскыя: сьпіць ды пыўдня.* Чыгрынаўка Расням.

ПА́НСТВА, -а, *н.* Панства. *Пабыў месіц у горідзі, дык панства ныбряўсь — ходзіць, гылаву зыдряўшы, і ні с кім ні здарэўкыіцца.* Брылёўка Краснап.

ПАНТАЛЫ́К, -у, *м.* Панталык, розум, троп. *Як я віджу, ты ўжо, Якыў, з панталыку збіўся.* Канічы Касцюк.

ПАНТО́ПЛІ, -пель, *мн. л.* Пантофлі, вязаныя з тоўстых суконных нітак лапці. *Маня, падай мае пантоплі, там каля печкі стыяць, мо' я трохі ўстану пы хаці прайду.* Крычаў.

ПАНУ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Прывесці да сумоты. *Дзяцей маіх панудзіла — нудзяцца, хоць ты ім што хочаш.* Радзілёў Краснап.

ПА́НУЎКА, -і, *ж.* Палонка. *Замерзла выда ў рецці, вазьмі тапор і прысячы пануўку.* Слаўнае Мсцісл.

ПАНЧО́ХА, -і, *ж.* Панчоха. *Надзень суконныя панчохі ў боты, усё будзе цяплей, калі ня хочыш валёнак надзіваць.* Баеўка Крыч. *Дзяўчына бегыя пы масту ў адных панчохах.* Сідараўка Краснап. *Зацыруй пяту ў панчохі.* Дзягавічы Касцюк.

ПА́НШЧЫНА, -ы, *ж.* Паншчына, прыгон. *Мой дзед ны сваіх плячох усю паншчыну піранёс.* Добрае Мсцісл.

ПА́НЫКІВЫЦА, -ы, *ж. бат.* Панікніца, гравілат. *Паныківыца расьцець кылы руччоў.* Хвёдараўка Краснап.

ПА́НЫЎКА, -і, *ж.* Палонка. *Пынісла мыць бяльлё ны паныўку, ды як шыбаўкнула ў ваду.* Куркаўшчына Мсцісл. *Сяньні хлопчык упаў у паныўку і зытапіўсь.* Бялішчына Мсцісл.

ПАНЭ́ХЫЦЬ, *дзеясл.* Патуляцца, пахадзіць. *Ён ня можыць зразу ўзяцца зы работу, яму нада панэхыць туды-сюды, каб большы часу прайшло.* Слаўнае Мсцісл.

ПА́НЮЎКА, -і, *ж.* Палонка. *Там панюўка была на речкі — бабы бяльлё мылі.* Арцёмаўка Міласл.

ПАНЮ́ХАЦЬ, *дзеясл.* Панюхаць. *Панюхай, як смашна пахніць чабор.* Добрае Мсцісл.

ПАНЮ́ШКА, -і, *ж.* Панюшка, дробка. *Во дай, як тыбакі ны панюшку.* Забычанне Касцюк.

ПАНЯСЬЦІ́ [панéсьць], *дзеясл.* Панесці. *Ты йдзі ў кіпірацію, а я панясу пісьмо на пошту.* Мсціслаў.

ПАНЯ́ТЫЙ, *прым.* Паняты. *Пры абглядзе паўшай быдлы ў мяне былі панятыя Андрэй і Міхась.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ПАНЯ́ЎКА, -і, *ж.* Палонка. *Паўз дарогі панявык пынькапыюць, што поначы можна голыву скруціць.* Вінаградаў Міласл.

ПАПАДА́ЦЦА, *дзеясл.* Трапляць, выпадкова бываць. *Часта пріхадзілысь пападацца мне і к быгатыму хадзяіну, дык там хырашо кармілі.* Бяседавічы Хоцім.

ПАПАЕ́СЬЦЬ, *дзеясл.* З'есці, паесці [паз'ядаць]. *Усе абеды папаелі.* Мсціслаў.

ПАПАЛА́ЦЬ, *дзеясл.* Паапалаць. *Трэба проса папалаць.* Палуж Краснап.

ПАПАЛЕ́НІЦЬ, *дзеясл.* Пакалоць (пра дровы). *Дровы папаленіць нада ды скласьць пад страху.* Касцюковічы.

ПАПА́РЫЦЬ, -і, *ж. бат.* Папараць. *Папарыць расьцець у лесі вялікімі і шурокімі кустамі.* Пірагова Мсцісл.

ПАПА́СЦА, *дзеясл.* Папасціся. *І нада ж папасца ў такую бяду.* Мануйлы Краснап. *Папаўсь, што ў нерыт: ні ўзад, ні ўперыд!* Пірагова Мсцісл. *Каўка папалася ў сільлё.* Дуброўна.

ПАПА́СЬЦЬ, *дзеясл.* Папасці, трапіць. *Як малацілі — папаў мне асьцюк у вока.* Пірагова Мсцісл. *Стрыляў у варону, а папаў у карову.* Баеўка Крыч.

ПАПАЎЗУ́ХА, -і, *ж.* Завея-пазёмка, стан пагоды, калі зверху снег не йдзе, а ўнізе мяце і завявае след. *У полі сяньні тыкая папаўзуха, што ўраз сьлед замятае.* Новае Сяло Мсцісл.

ПАПЕ́РА, -ы, *ж.* Папера. *Я сынку сваіму паперы купіў, няхай пісаць вучыцца.* Барысавічы Клім. *Вучыцель вялеў купіць паперы ў клетку.* Мацутаўка Расням. *Атарві мне кусок паперы, пісульку напісаць.* Добрае Мсцісл.

ПАПЕ́РІЧНЫЙ, *прым.* Паперны, папяровы. *Січас ужу й мяшкі паперічныя дзелыюць, ня толькі што.* Залачэўка Краснап.

ПАПЕ́РКА, -і, *ж.* [Афіцыйны дакумент], адносіна, паведамленне. *Міхалцы прішла із воласьці паперка.* Гібалы Касцюк.

ПАПЕ́РЦЬ, *дзеясл.* Паперці. *Я яго так ублагытварыў, што з горла папёрла.* Губары Краснап.

ПАПІКА́ЦЬ, *дзеясл.* [Папракаць], дакараць. *Дос табе ўжо папікаць мне куском хлеба, ці я ў цябе яго не зырабіў.* Гібалы Касцюк.

ПАПІ́КЫШЧА, -а, *н.* Дакор, папіканне. *Нечыга рабіць мне папікышча: я свой хлеб ем і нікому ні доўжін.* Хвёдараўка Краснап.

ПАПЛЁТ, -у, *м.* Паплёт, латы, тонкія жэрдкі, што кладуцца на ключы для асновы страхі. *Паплёт добры, крыша будзе крэпка.* Юркаўка Крыч. *Брат паехаў у лес, паплёт на хату рубіць.* Затоны Расням. *Паплёт пагніў — па крышы ня пойдзеш.* Дуброўна.

ПАПЛЕ́ЦІНА, -ы, *ж.* Паплеціна, лата. *Паплеціна злымалыся, і я прываліўся ны стряхе.* Пухнава Расням.

ПАПЛЫ́СЬЦЬ, *дзеясл.* [Паплысці], паплыць. *Выда быстрыя, ні паплысьць наўспроці вады.* Аўчынец Краснап. *Крыгі ўжо паплылі пы Дняпру.* Крычаў.

ПАПЛЯСЬЦІСЬ, [паплéсца] *дзеясл.* Паплесціся, пайсці памалу. *Старая папляласъ з цапком у поля.* Гарбавічы Касцюк.

ПАПОВІШ, -а, *м.* Паповіч. *Ды нашый учыцілкі паповіш нешта пычаў хадзіць: ўзамуж думаіць узяць.* Мануйлы Краснап.

ПАПОК, папка, *м. бат.* Дзяцеліна [канюшына] чырвоная лугавая. *Дывай будзім папкі ссаць — яны салодкія.* Палуж Краснап.

ПАПОЛЬЗЫВЫЦЦА, *дзяесл.* [Пакарыстацца], скарыстаць. *Мы ім і ні папользывылісь — усё ў глум пашло.* Парадзіна Мсцісл.

ПАПОЎНІЦЫЙ, *прысл.* [На поўны абхват], папоўніцы, цэлым бярэмем. *Бярэма бярыця папоўніцый.* Хвёдараўка Краснап.

ПАПРАВІЦЬ, *дзеясл.* Паправіць, паладзіць, *Папраў заверты, ато аглоблі выскачуць з саней.* Крычаў.

ПАПРАСУВАЦЬ, *дзеясл.* Папрасаваць. *Ну прас ăшчэ гырачы — папрасуй мне кофту.* Ушакі Чэрык.

ПАПРАЎЛЕНЫЙ, *дзеепрым.* Папраўлены. *Грэбля наша ўжо папраўлена.* Рэкта Калінінщчына.

ПАПРІЧ, *прысл.* Паасобку. *Різлажы ты лён папріч ат усяго, штоб відна была яго сьцелішча.* Б. Хутары Краснап.

ПАПРІЧАПІЦЦА, *дзеясл.* [Папрычэпліваццa], прычапіцца. *Сыбаку на хвост папрічапіліся дзяды.* Пірагова Мсцісл.

ПАПРОСТУ, *прысл.* Папросту, проста. *На што тут быць мудрылый, калі можна папросту зрабіць.* Палуж Краснап.

ПАПРЫЧЫЦЦА, *дзеясл.* Здарыцца, зрабіцца. *Яму нешта папрычылыся — як прыехый, дык і захварэў.* Хвёдараўка Краснап.

ПАПРЯКАЦЬ, *дзеясл.* Папікаць, дакараць. *Вы дужа добрыя: за кожную крошку хлеба папрякаеце.* Дубеец Касцюк.

ПАПУДЗІЦЦА, *дзеясл.* Спужацца, спалохацца. *Конь папудзіўсь тынабіля і злымаў калёсы.* Хвёдараўка Краснап.

ПАПУЖАЦЦА, *дзеясл.* Папужацца. *Ён там такій гармідар атпаліў, проста ўсі папужаліся.* Пірагова Мсцісл.

ПАПУТЧЫК, -а, *м.* Спадарожнік. *Зьмітрок быў мне папутчыкам.* Дубеец Касцюк.

ПАПУЦІХА, -і, *ж.* Бабка-павітуха. *Марыся радзіла ў папуціхі, ды нешта, мабыць, ні ладна — увесь час хварэіць.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ПАПУЧЫК, -а, *м.* Спадарожнік. *С пылавіны дарогі мне трапіўся папучык, тожа йшоў у тую дзярэўню, дык мы з ім і пашлі разым.* Арцёмаўка Мілаcл.

ПАПЫРЫТНІК, -а, *м. бат.* Папараць. *Ны папырытніку саўсім німа цьвету — ён ні цьвіцець.* Арцёмаўка Мілаcл.

ПАПЫРЫЦЬ, -і, *ж. бат.* Папараць. *Папырыць цьвіцець толькі адну ноч, на Івана Купалу. Кажуць, што калі сырваць етый цьвет, то будзеш усё чыста знаць, айдзе што ёсьць і дзе што дзеліцца.* Зоры Чэрык.

ПАРА, -ы, *ж.* 1. Пара. *З сымувара пара йдзе — значыцца закіпеў.* Старае Сяло Мсцісл. *Над варам пара йдзе тыкая, што аж рукі ня ўтрымаць.* Барысавічы Клім. 2. Пара, два, дзве. *Купі мне на бызары пару гаплікоў.* Мсціслаў.

ПАРА, -ы, *ж.* Пара. *Пара ўжо гной вазіць пад бульбу.* Тульдава Раснян. *Дысядзеўся да тэй пары, пакуль дождж пашоў, а сена ні складзена.* Тур'я Чэрык.

ПАРАДЗІХА, -і, *ж.* Парадзіха, жанчына, якая толькі што радзіла. *Пайці праведыць парадзіху нада — што іна там прывіла, хлыпца ці дзеўку.* Асавец Крыч. *Нешта ты ходзіш, як парадзіха.* Гібалы Касцюк.

ПАРАДКАМ, *прысл.* Шмат. *Сёліта мы бульбы парадкам-такі накыпалі.* Асмолавічы Мсцісл.

ПАРАЗБІВАЦЦА, *дзеясл.* Паразбівацца, разбіцца. *Пышла воблій, нада коні куваць, бо сьлізка, могуць паразбівацца.* Горкі Хоцім.

ПАРАНЬ, пáрыня, *м.* Хлапец. *Парань купіў кушак.* Крычаў.

ПАРАСЁ, -я, *н.* Парасё. *Я купіў сабе парасё, ды німаведама, як яно есьць будзець.* Папоўшчына Мсцісл. *Зыгані парасё ў сьвінушнік.* Дубровіцы Клім. *Віращыць, як парасё ў прасьлі.* Парадзіна Мсцісл.

ПАРАСЁНЫК, -нка, *м.* Парасё. *Парасёнык прыбег двору ад пастуха.* Пірагова Мсцісл.

ПАРАСІНКА, -і, *ж.* Расінка, капля. *Вой, парасінка капнула мне на нос.* Ушакі Чэрык.

ПАРАСКА, -і, *ж.* Уласнае імя Параска, Параскева. *Васіль і Параска пабеглі коўзыцца на рэчку.* Каробчына Мсцісл.

ПАРАСПУСЬЦІСЬ, *дзеясл.* [Параспускаць], распусціць. *Лахудра нейкыя — парасьпусьціць свае космы і ходзіць так, хоць ба прычасалась.* Пірагова Мсцісл.

ПАРАСТОЎПЫМ, *прысл.* Стоўпам пары. *Ніхай душа зь цябе парастоўпым выйдзя.* Хвёдараўка Краснап.

ПАРАЎНЯЦЦА, *дзеясл.* Параўняцца, параўнавацца. *Ён хоча са мной параўняцца.* Хоцімск.

ПАРАФІЯ, -і, *ж.* Парафія, прыход, круг вёсак, што абслугоўвае адна царква. *Нявеста была другея парафіі.* Гібалы Касцюк. *Парафія бедныя, дык папы ні хочуць доўга быць у ёй.* Бродкі Крыч.

ПАРАЧ, -а, *м.* Доўгі кій, ужываецца замест качаргі. *Выкаці мне парачом бульбінку з цяпла.* Гібалы Касцюк. *Адыдзіся ад печы, бо парачом так і сьцягну па сьпіне.* Новы Дзедзін Мсцісл.

ПАРВАЦЦА, *дзеясл.* Парвацца, разарвацца. *У штанох парваўся мотуз.* Машавая Бялынкав. *Гужы парваліся, а новых купіць німа за што: грошы німа.* Пухнава Раснян. *Крапчэй сцісні клешчы, ато парвецца хамут.* Бяседавічы Хоцім.

ПАРВАЦЬ, *дзеясл.* Парваць, разарваць. *Маленькі Юзік узыбраўся ны лаўку, дыстаў сшыткі, парваў умэтлухі.* Пацкава Мсцісл. *Я аб цьвік парваў штаны.* Тур'я Чэрык. *Ні прівязвый кыня на ету вяроўку, бо парьвецьця — іна ж ні крепкыя.* Арцёмаўка Мілаcл.

ПАРЭЗАНЫЙ, *прым.* Парэзаны. *Адна хылява добрыя, а другая троху парезына.* Лешчынка Мсцісл.

ПАРЭЗЫЦЬ, *дзеясл.* Парэзаць. *Істрый нож ды руку парезый.* Вербеж Крыч.

ПАРЕ́НКА, -і, *ж.* Паранка, параная бульба, бручка або ачысткі з бульбы для корму свіней. *Зыбярі парёнку із гаршком ды нясі ў карыта, зымяшай з мякіныю.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ПАРЕ́ЧКА, -і, *ж. бат.* Парэчка. *У нас у садзе дзесіць кустоў паречкі і трі кусты смуроды.* Хвёдараўка Краснап.

ПАРІ́ЗЬЗЯ, -я, *н.* Чырвоная матэрыя. *Вось прыбралыся ў парізьзя, аж зіхаціць.* Тур'я Чэрык.

ПА́РІНА, -ы, *ж.* Папар. *У нас у дзяреўні — трохполка: поля пад жыта, поля пыд ярь і поля пыд паріну, каб скот можна было пасьвіць.* Слаўнае Мсцісл.

ПА́РІНІНА, -ы, *ж.* Папар. *Посьлі Пятра пычануць пыхаць парініну.* Гарбавічы Касцюк.

ПАРКАЛЁВЫЙ, *прым.* Паркалёвы, зроблены з паркалю. *У Домны паркалёвы хвартух.* Машавая Бялынкав.

ПА́РКАЛЬ, -ю, *м.* Паркаль. *Ныбрала ны сарочку паркалю.* Гібалы Касцюк. *Паркаль толькі на рубашкі і йдзець.* Буліна Касцюк.

ПАРКА́Н, -у, *м.* Паркан, агароджа. *Хлопцы палезлі праз паркан у сад.* Ганнаўка Клім. *Наўкол саду высокі паркан, а грушы ўсёдно пыабрывалі.* Бель Мсцісл. *Двор парканом зыгароджан.* Кажамякіна Краснап.

ПАРО́БЛЕНЫЙ, *прым.* Пароблены, зроблены. *Цяпер можна аддыхаць, калі ўсё пароблена.* Лешчынка Мсцісл.

ПАРО́Г, -а, *м.* Парог. *У нас у хаце высокій парог, Наста ні піралезіць.* Пухнава Раснян. *Парог чыста свіньні пагрызлі.* Шэвялёўшчына Мсцісл.

ПАРО́ДА, -ы, *ж.* Парода, гатунак. *Карова харошый пароды; мылыка дасць былата, і мылако густоя.* Маластоўка Краснап.

ПАРО́ДЗІСТЫЙ, *прым.* Завадскі [добрага заводу, добрай пароды]. *Наш конь гладкі — пародзістый.* Слаўнае Мсцісл. *У мяне — пародзістый кнур.* Кокатава Мсцісл. *Ета цёлычка атплодык ат пародзістыя кpropвы, што ў саўхозі.* Арцёмаўка Міласл.

ПАРО́ДЛІВЫЙ, *прым.* Завадскі [добрага заводу, добрай пароды]. *Зывядзі ты пародлівую карову: луччы мець адну пародлівую, чым трі абы якія.* Клясін Краснап.

ПАРО́ЖНІЙ, *прым.* Парожні, пусты. *Мо' ў вас ёсьць парожні мех? Пазычця мне на сёньня.* Васілёўка Хоцім. *Вунь там стаіць парожнія катка — высып туды гарох з лубкі.* Горкі Хоцім.

ПАРО́М, -а, *м.* Паром. *Ты відзіў калі паром? Ета такей плывучый мост, пы якім перавозюць праз ряку людзей і коній з калёсымі.* Бяседавічы Хоцім.

ПАРО́НКІ, -нак, *мн. л.* [Паронкі], параная бульба, буракі, бручка для корму свіней. *Вынь з печы паронкі і пытаўчы.* Тур'я Чэрык.

ПАРО́СЬЦЕНЬ, -я, *м.* Парасьнік. *Якей зялёный паросьцень пыдняўся.* Палуж Краснап.

ПАРО́ЦЬ, *дзеясл.* Пароць. *Яго хоць вожыгам пары, дык ні падымецца.* Кокатава Мсцісл. *Нашто ты порыш кіім сыбаку — укусіць.* Стары Дзедзін Міласл.

ПАРО́ЦЬ ІРУНДУ́. Гаварыць глупства. *Ат, ірунду ты поріш, слухыць ні хочыцца.* Слаўнае Мсцісл. *Ні пары ты ірунды, а гывары толкам, як ета було?* Самацэвічы Касцюк.

ПАРСЮ́К, -а, *м.* Парсюк, кабан. *Парсюк наш нешта захварэў, каб ноды ні здох.* Клясенка Краснап.

ПАРСЮЧО́К, -чка, *м.* Памянш. ад парсюк. *Парсючка мы ні абпальвылі, а варым абварылі, дык шэрсьць і зьлезла.* Парадзіна Мсцісл.

ПАРТАМАНЕ́Т, -а, *м.* Партманет, капшук на грошы. *Я паціраў сёньня партаманет з грышамі.* Баброва Раснян.

ПАРТНІ́НА, -ы, *ж.* Партніна, саматканае палатно. *Я выткала сабе тры губкі партніны.* Пірагова Мсцісл. *З партніны рубашык ні хочыць насіць, а дай яму крамныя, пан такей, што ого!* Лужы Краснап.

ПАРУ́ГА, -і, *ж.* Здзек, мука. *Еткую паругу чылавек піранёс: білі, калолі ў пяты — ні дывядзі бог, што пірацярпеў.* Слаўнае Мсцісл.

ПАРУКА́ЦЦА, *дзеясл.* Прывітацца, падаўшы адзін аднаму рукі. *Ну, хадзі хоць парукаемся, даўно ня бачыліся.* Куркаўшчына Мсцісл. *Увайшоў у хату, парукаўся з усімі, а тады ўжо пычаў гыварыць, зачым прышоў.* Гарцуеўка Краснап.

ПА́РУКІ, -аў, *мн. л.* Парука. *Яго ны парукі з астрогу ўзялі, а ён уцёк.* Самацэвічы Касцюк.

ПАРУ́ПІЦЬ, *дзеясл.* Парупіць, мець неадкладную патрэбу. *Парупіла яму чагота зьезьдзіць у горыд.* Арцёмаўка Міласл.

ПА́РУС, -а, *м.* Ветразь, парус. *Машты бываюць на кырыблях, на іх ныцягівыюць парусы.* Бяседавічы Хоцім.

ПАРУ́ЧЫК, -а, *м.* [Паручыцель], той, хто бярэ на парукі. *Паручыкам за сына стынавіўся бацька, дык ці суд яму паверіць?* Слаўнае Мсцісл.

ПАРУ́ШЫНЫЙ, *прым.* Парушаны. *Гырылачы ў погрібі парушыны; ноды каб ні кот туды ходзіць.* Палуж Краснап.

ПАРУ́ШЫЦЬ, *дзеясл.* Зрушыць. *Палез ён ны паліцу, парушыў гырлачы — як пацякло мылако!* Пірагова Мсцісл.

ПАРЦЮ́К, -а, *м.* Спадніца з саматканага [белага] палатна. *Старый бабі прібірацца ня треба — парцюк ёсьць, дык і добря.* Гібалы Касцюк. *Цётка і ўзімку парцюк носіць.* Смолькаўская Буда Бялынкав.

ПАРЦЮ́ШКА, -і, *ж.* Спадніца з даматканага белага палатна. *Цётка пашыла Зосі парцюшку, а іна ні хоча адзіваць — хоча, штоб мама купіла ны спадніцу.* Прыпечына Касцюк.

ПАРШЫ́ВЫЙ, *прым.* Паршывы, пакрыты паршамі. *Ні было ў бабы клапот, дык купіла паршывыга пырасёнка.* Лешчынка Мсцісл.

ПАРЫВА́ЦЦА, *дзеясл.* Парывацца [рвацца]. *Я ня буду табе парывацца ў рабоці адна, калі ты ні пасобіш.* Слаўнае Мсцісл.

ПА́РЫНІНА, -ы, *ж.* Папар. *Сёліта парыніна, а ўвосень пшаніцу-азімку пасею*

*тут.* Парадзіна Мсцісл. *На парыніне пасецца скот.* Юркаўка Крыч. *Парыніна сёліта дрэнныя, скот ні ныйдаіцца.* Палуж Краснап.

ПАРЫЦЦА, *дзеясл.* Парыцца. *Я ні люблю ў лазьні парыцца, так толькі мыюся.* Глупікі Крыч.

ПАРЫЦЬ, *дзеясл.* Парыць, прыпарваць. *Нешта сяньня зранку стала парыць — знаць, дождж будзя.* Маравілле Касцюк.

ПАРЫЦЬ, *дзеясл.* Пакапаць. *Я сваю бульбу ўсю зілізьняком парыла, кыня ні ў кога ні брала.* Пірагова Мсцісл.

ПАРЭЗ, -а, *м. бат.* Парэз. *Трава парэз завецца так таму, што бабы прыклыдаюць яе ны парэзыныя месты. Гэта — зялёная траўка, наўродзе дробнай папырыці.* Пірагова Мсцісл.

ПАРЭЗАНЫЙ, *дзеепрым.* Парэзаны. *У мяне паліц парэзаны, дык ні магу крэпка узяць рукою.* Бяброва Раснян.

ПАРЭЗКА, -і, *ж.* [Парэз], парэзанае месца на целе, болька. *Баліць парэзка ны пальцы.* Хвёдараўка Краснап.

ПАРЭЗЫЦЬ, *дзеясл.* Парэзаць. *Мы сваіх баранчыкыў парэзылі.* Вербеж Чэрык. *Сяньні парэзылі бязумінкі* (тонкія дошкі). Хвёдараўка Краснап.

ПАРЭНДЖА, -ы, *ж.* Парэнча [поручань], баляса, загарода на мосце. *Парэнджы ны масту згнілі.* Гарадзец Бабр.

ПАРЭНЖА, -ы, *ж.* Парэнча [поручань], баляса, загарода на мосце. *Якая ета слабенькыя парэнжа, ці можна зы яе дзіржацца.* Канічы Касцюк.

ПАРЭЧКА, -і, *ж. бат.* Парэчка. *Парэчкі ўжо чырвоныя сталі — паспелі ўжо.* Халдзееўка Хоцім. *У нас у садзе ёсьць тры кусты краснай парэчкі.* Пірагова Мсцісл. *Парэчкі сёліта многа ў саду.* Маластоўка Краснап.

ПАСАГ, -у, *м.* Пасаг, маёмасць, што даецца дзяўчыне пры выхадзе замуж. *Я ж саўсім бедны, які я магу пасаг даць сваёй даццэ — вазьмуць яе замуж і так.* Ушакі Чэрык. *Мыладыя паехалі па пасаг.* Лапаціна Мсцісл.

ПАСАГА, -і, *ж.* Пасаг. *Ён сабе жонку узяў з пасагаю.* Негін Касцюк. *Як ішла яго дачка замуж, дык пасагі за ёй даў: карову, каня і ўшчэ нешта.* Ушакі Чэрык.

ПАСАД, -у, *м.* 1. Пасад, стол [трон]. *Сапхнулі гэта цара з пасаду, ды самы, мусіць, пасад спалілі.* Ушакі Чэрык. 2. Рад снапоў, [раскладзеных] на таку для малацьбы. *Змылацілі да сьвету два пасады снапоў і ў лес паехалі, толькі стала днець.* Дзеражна Касцюк.

ПАСАДА, -ы, *ж.* Сядзіба. *Ходзіць па пасадзе ды гаворя нешта сам сабе.* Іванаўка Хоцім.

ПАСАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Пасадзіць. *Пасадзі дзіця на мост, ніхай сядзіць.* Машавая Бялынкав. *Хачу квакуху пасадзіць.* Пірагова Мсцісл. *Сёліта і я пасаджу гарбузоў.* Буліна Касцюк.

ПАСАДКА, -і, *ж.* 1. Пастка. *Зывялося мышэй, проста бяда, нада пасадку пыставіць, мо пыпадзе каторая.* Маравілле Касцюк. 2. Зяпа, рот. *Што ты пасадку разінуў? Ні спужалыся цябе.* Гарбавічы Касцюк.

ПАСЁРБАЦЬ, *дзеясл.* Пасёрбаць, з'есці што-небудзь рэдкае. *Трэба чаго-небудзь пасёрбаць крыху, ато есьць захацелася.* Дуброўна.

ПАСЕРДЗІЦЦА, *дзеясл.* Пазлавацца. *Матка пасердзіцца ды й улашчыцца.* Гарбавічы Касцюк.

ПАСЁСТРА, -ы, *ж.* Дваюрадная сястра. *Хутка вяселля будзем гуляць: мая пасёстра выходзя замуж.* Палуж Краснап.

ПАСЕЯЦЬ, *дзеясл.* Пасеяць. *Як у вас сёліта гарод, пасеялі ўжо каноплі ці не?* Новыя Капачы Мсцісл. *Пасеяў сабе гынчарыкі на куріва.* Палуж Краснап.

ПАСІЛІЦЬ, *дзеясл.* 1. Змагчы, перамагчы. *Лепш ні йдзі з намі — ні пасіліш ты гэстай дарогі — дужа далёкыя.* Ушакі Чэрык.

ПАСІЛКАВАЦЦА, *дзеясл.* Пасілкавацца, падмацавацца ядою. *Пасілкаваліся трохі і пашлі дальш.* Палуж Краснап.

ПАСІЛКУВАННЯ, -я, *н.* Падмацаванне ядою. *Стамілісь, ішоўшы, і селі пасілкувацца, а пысьля пасілкуваньня пыляглі ды й заснулі.* Хвёдараўка Краснап.

ПАСІЛЬВАЦЬ, *дзеясл.* Перамагаць. *Хлопцы 'днэй сілы: ні той, ні той ні пасільвыя ў боріньні.* Лютня Краснап.

ПАСІЛЬНЫЙ, *прым.* Пераможаны. *Давыд з Гараськый борілісь, дык Давыд астаўсь пасільный.* Маластоўка Краснап.

ПАСІНЕЦЬ, *дзеясл.* Пасінець. *Ат холаду пасінеў і калоціцца бяспрытульны, бедны хлапец.* Сохана Мсцісл.

ПАСКАБКІ, -бак, *мн. л.* Паскубкі, астаткі ад валакна канапель, калі ўюць вяроўкі. *Многа паскыбак — пінька дрэнь.* Хвёдараўка Краснап.

ПАСКОМІЦЦА, *дзеясл.* Набіць аскому. *Паскомілася мне гета работа, хачу другую пашукаць.* Пірагова Мсцісл.

ПАСКРЁБЫЦЬ, *дзеясл.* Пачасаць. *Зыхацеў паскрёбыць сьпіну і стаў церца сьпіною аб прітыку, а ўсе як зырягочуць.* Арцёмаўка Міласл.

ПАСЛАБІЦЬ, *дзеясл.* Паслабіць. *Атгуж-ка хамут, нада паслабіць гужы.* Пірагова Мсцісл.

ПАСЛАНЕЦ, -нца, *м.* Пасланец, пасланы. *Паслалі паслынца, дык ён там і сеў; треба за ім другога пасылаць.* Дубеец Касцюк.

ПАСЛАЦЬ, *дзеясл.* 1. Паслаць. *Хацеў паслаць дзяўчыну па дзядзьку, ды вось нейдзе пабегла.* Глупікі Крыч. *Паслаў пісьмо брату, каб прыехаў двору.* Зоры Чэрык. 2. Паслаць [сцелючы, раскласці]. *Паслалі лён, а вецір пыраскідаў.* Дубеец Касцюк. *Пасьцялі пасьцель, я лягу спаць.* Палуж Краснап.

ПАСЛУЖКА, -і, *ж.* Паслуга. *Другей ба чылавек ні даўся табе ны паслужку.* Палуж Краснап.

ПАСЛУЖЫЦЬ, *дзеясл.* Паслужыць. *Паслужы ты мне, а я табе ўдвыя адслужу.* Глупікі Крыч.

ПАСЛУХЫЦЬ, *дзеясл.* Паслухаць. *Дос табе шымацець бумагаю, дай паслухыць, што людзі кажуць.* Арцёмаўка Міласл. *Не-*

*слуху кажы ці ні кажы, усёдно ні паслухыіць.* Сохана Мсцісл.

ПАСЛУХНЫЙ, *прым.* Паслухмяны. *Сын у цябе добрый — паслухный.* Палуж Краснап.

ПАСМА, -а, *н.* Пасма, дзесяць чыслінак, 30 нітак. *У матку было пасма сініх і пасма белых нітак.* Арцёмаўка Міласл. *Дзяўчына ныснувала красён восім пасмыў і адну чысьлінку.* Слаўнае Мсцісл. *У колькі пасмаў ствае кросны?* Хвёдараўка Краснап.

ПАСМОРГАЦЬ, *дзеясл.* Абсморгаць. *Пасморгай аборку, каб кайстры ні было.* Хвёдараўка Краснап.

ПАСМУРНЕЦЬ, *дзеясл.* Пахмурнець, зрабіцца хмурным, смутным. *Вочы тває пасмурнелі, ці здароў хаця ты?* Хоцімск.

ПАСМЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад пасма. *Зыпляці ты мне касу у чатыры пасмычкі.* Ушакі Чэрык.

ПАСПАСІБКЫВАЦЬ, *дзеясл.* Падзякаваць. *Ніхай дзеці тває адплацяць табе тым, чым ты мне паспасібкывыла.* Асмолавічы Мсцісл.

ПАСПОРЫЦЦА, *дзеясл.* Паспрачацца. *Ён кажа — белый, а я — сівэй, так за кыня і паспорылісь.* Парадзіна Мсцісл.

ПАСПРОБУВАЦЬ, *дзеясл.* Пакаштаваць [паспрабаваць]. *На паспробуй маіх пірагоў — ніўдалыя нейкія, мабыць, дрожджы ня сьвежыя.* Маляцічы Крыч. *Паспробувай я тває касы: добра косіць.* Пірагова Мсцісл.

ПАСПРОБЫВЫНЫЙ, *прым.* Паспытаны, паспрабаваны. *Надзеі на выздырайленьня німа — усі ўжо срэдзства паспробывыныя.* Каробчына Мсцісл.

ПАСПЫТАЦЬ, *дзеясл.* Паспытаць, паспрабаваць. *Ны сваім жыцьці я ўсяго паспытаў — адначасьне, праўда, і дзёгыць гнаў.* Старае Сяло Мсцісл.

ПАСОБІЦЬ, *дзеясл.* Дапамагчы. *Брат, дзякуй яму, пасобіў мне ў рабоце, а так адна ні справілася б.* Дзягавічы Касцюк. *Яму можа пасобіць намоў ны вадзе ад шалёныя сыбакі.* Слаўнае Мсцісл. *Пасоб-ка ты мне калодку атпіліць.* Пірагова Мсцісл. *Чаго ты божкыіш? Усёдно гору ні пасобіш.* Палуж Краснап.

ПАСОБКУ, *прысл.* Асобна, паасобку. *Жалі ўмесьці, а есьць будзім пасобку.* Цівецкая Краснап.

ПАСОХНУЦЬ, *дзеясл.* Пасохнуць, высахнуць. *Пыра ўжо кыпаць бульбу — ціціва пасохла.* Слаўнае Мсцісл. *Пасох ужо бульбоўнік — кыпаць бульбу пыра.* Баброва Раснян.

ПАСТАВІЦЬ, *дзеясл.* Паставіць. *Пастаў вілкі ў кычарэжнік.* Паходавічы Чэрык. *Паставілі паску на кут, ды нас за стол, ды так пычаступалі, што ледзь да дому прышлі.* Новыя Капачы Мсцісл.

ПАСТАВІШНЯ, *прысл.* Заўсёды. *Паставішня мы ходзім у гай.* Журбін Бялынкаў.

ПАСТАНЬНЯ, -я, *н.* Падол у спадніцы. *Мікола з Настаю забеглі ў гарод і ныбралі цэлыя пастаньня гуркоў.* Пацкава Мсцісл. *Насып хоць у пастаньня спадніцы.* Галоўчыцы Калінінўчына.

ПАСТАЎКА, -і, *ж.* [Падол], ніжняя частка жаночай кашулі, якая шыецца з грубага палатна. *Пастаўка ў кашулі адырвалыся.* Барысавічы Клім.

ПАСТАЯЛКА, -і, *ж.* Салодкае пастаялае малако. *Пастаялка — звычайная страва ў вёсцы.* Бель Мсцісл. *Унясі з погрыба гырлач ды й налі сабе пастаялкі.* Варанёва Крыч. *Матка наліла дзецям пастаялкі ў міску, дык яны й сёрбыюць.* Юшкавічы Раснян. *Чаго табе даць, ці пастаялкі, ці сыраквашы?* Буліна Касцюк.

ПАСТРОІНЫЙ, *прым.* Пабудаваны. *Ета хата пастроіна ныпадобіі суседнія хаты.* Слаўнае Мсцісл.

ПАСТРОІЦЬ, *дзеясл.* Пабудаваць. *Пастроілі хату і ганкі на вуліцу, вялікія, з пяцьмі пріступкымі.* Слаўнае Мсцісл.

ПАСТРЫГЧЫСЯ [пастрыжца], *дзеясл.* Пастрыгчыся. *Іна пастрыглыся ў нымастыр чарнушкый.* Слаўнае Мсцісл. *Як пастрыгся, дык і шапка стала вялікыя — гылыва паменіла.* Клімавічы.

ПАСТРЫЧ, *дзеясл.* Пастрыгчы. *Зысталося толькі два быранчыкі пастрыч.* Высокі Бор Краснап.

ПАСТУПІЦЬ, *дзеясл.* Быць прынятым, залічаным. *Баюся, што ні паступлю ў тэхнікум, ня здам экзаміну.* Пірагова Мсцісл.

ПАСТУПОВА, *прысл.* Паступова. *Паступова, адно за адным выяўляюцца ўсі яго дзялы на судзе.* Расна.

ПАСТУПОВАСЬЦЬ, -і, *ж.* Паступовасць. *У кожным дзелі нада паступовасьць мець.* Сапрынавічы Мсцісл. *Гэткай паступовасьці ат яго ніхто ні чыкаў.* Ушакі Чэрык.

ПАСТУХ, -а, *м.* Пастух. *Пастух зайграў на дудыццы.* Пірагова Мсцісл. *Ня будзіш вучыцца — аддам цябе ў пастухі — свіньней пасьць.* Парадзіна Мсцісл.

ПАСТУШЫЙ, *прым.* Пастуховы, пастушы. *Распусьціўся, як пастушыя пуга.* Кокатава Мсцісл.

ПАСТЫЛЫЙ, *прым.* Нялюбы [абрыдлы]. *Ой, якей ён мне стаў пастылы!* Хвёдараўка Краснап. *Пастылым ён стаў пысьля тых слоў.* Парадзіна Мсцісл.

ПАСТЫЛЬСТВА, -а, *н.* [Абрыдласць], нянавісць. *Сваркаю нічога добрага ні даб'есься, акрамя пастыльства.* Канічы Касцюк. *Каб ні мець у суседстві пастыльства, нільзя адзін аднаму рабіць ніякай шкоды.* Сохана Мсцісл.

ПАСТЫРЬ, -я, *м.* Пастух. *Наш пастырь харошый чылавек, яго ўсі пувыжаюць.* Трубільня Краснап.

ПАСТЫРЬСКІЙ, *прым.* Пастухоўскі. *Пастырьскій хлеб ня лёхкій.* Карма-Пайкі Краснап.

ПАСТЫЯЛКА, -і, *ж.* Малако салодкае, якое пастаяла ў пограбе. *Пастыялка з пограба — халодныя.* Бялішчына Мсцісл. *Наеўся пастыялкі і нічога больш ні хочу.* Расна. *Сядзяць дзеці ны масту і сірбаюць пыстыялку.* Шумячы.

ПАСУДА, -ы, *ж.* Пасуда. *Я купіла сабе хурхуровую пасуду.* Слаўнае Мсцісл. *Нямытая пасуда, а ты на стол ставіш — гэта ж куды варта!* Юшкавічы Раснян.

ПАСУ́НУЦЦА, *дзеясл.* Пасунуцца. *Пасунься, я тут сяду.* Маластоўка Краснап.

ПАСУ́НУЦЬ, *дзеясл.* Пасунуць, парушыць. *Пасунь трохі камбізу наперад.* Новы Дзедзін Міласл. *Ну, пасунь свае жорны адсюль.* Горкі Краснап.

ПАСУ́ПІЦЦА, *дзеясл.* Нахмурыцца. *Ён нешта пасупіўся.* Хвёдараўка Краснап.

ПА́СЫДКА, -і, *ж.* Пастка. *Наснудзілі пасыдку на мышэй.* Гарцуеўка Краснап. *У пасыдку пупалыся мышына.* Слаўнае Мсцісл.

ПАСЫЛА́ЦЬ, *дзеясл.* Пасылаць. *Я пасылаю табе грошы штомесяца па дваццаць рублёў, няўжо табе не хапаіць?* Хоцімск.

ПА́СЫНАК, -нка, *м.* 1. Пасынак, сын жонкі ад першага мужа. *У Янкі памёр бацька, а матка прыняла да сябе другога мужыка, якому ўжо Янка быў пасынак.* Міцькаўшчына Мсцісл. 2. Малады парастак дрэва. *Груша пасынак пусьціла, яго нада зрэзаць.* Бакунавічы Чэрык.

ПА́СЫНЬНІК, -а, *м.* Пасынак. *Ажаніўся ў другі раз, дык мачыха проста заела пасыньніка.* Мсціслаў.

ПАСЫ́ПАЦЬ, *дзеясл.* Пасыпаць. *Вазьмі жменю аўса ды пасып курам.* Ушакі Чэрык. *Атрэзаў сабе скібу хлеба, пасыпаў сольлю і стаў есць.* Арцёмаўка Міласл.

ПАСЫПА́ЦЬ, *дзеясл.* Пасыпаць. *Перад духавым днём пасыпаюць па хаце і пы двару яверам.* Пірагова Мсцісл.

ПАСЫТКА, -і, *ж.* Пастка. *Пасытка ляпнула, і мыш ачынулысь запёртыя. Пыставілі пасытку ны вуўка, а пыпаўся сыбака лапыю, яму лапу і зышчаміла.* Арцёмаўка Міласл. *Мне нада ыснудзіць пасытку лавіць мышэй.* Слаўнае Мсцісл.

ПАСЬВІЦЬ, *дзеясл.* Пасвіць. *Летась ён скот пасьвіў.* Радзіонаўка Мсцісл. *Чаго бryндаеш біз тоўку? Ідзі коні пасьвіць.* Парадзіна Мсцісл.

ПАСЬЛЕ́ДНІЙ, *прым.* Апошні. *Гарётнік ты мой, брахнінька, пасьледніга коніка ўкралі.* Слаўнае Мсцісл. *Дай мне лён, нада мычкі мыкаць, ато я ўжу пасьледнюю спряла.* Арцёмаўка Міласл.

ПАСЬЛЕ́ДЫШ, -а, *м.* Астатні. *Пасьледыш піскленычык чуць ходзя.* Хвёдараўка Краснап.

ПАСЬЛІ́ЗНУЦЬ, *дзеясл.* Аслізнуць, пакрыцца слізззю, згніць, заплеснець. *Капуста пасьлізнула.* Хвёдараўка Краснап.

ПАСЬЛЯ́, *прыназ.* Пасля. *Во барыня! Пасьля чорныга хлеба яе жога пячэ.* Парадзіна Мсцісл. *Пасьля грому пашоў дождж.* Іванаўка Хоцім. *Пасьля дожджу будуць грыбы.* Асмолавічы Мсцісл.

ПАСЬМЕ́Х, -у, *м.* Пасмех [абсмяянне]. *Скорый пасьпех—людзям на пасьмех.* Слаўнае Мсцісл.

ПАСЬНЕ́ДАЦЬ, *дзеясл.* Паснедаць. *Пасьнедаў ні так добра, дык есць зыхацелась.* Дарагая Крыч. *Пасьнедаўшы, Міхась пашоў у лес.* Лапаціна Мсцісл.

ПАСЬПЕ́Х, -у, *м.* Поспех. *Як добра ўсё ідзе, дык і сам здароў і пасьпех у рабоце ёсьць.* Бакунавічы Чэрык.

ПАСЬПЕ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Паспець, зрабіцца спелым. *Авёс пасьпеў — жаць урэмя.* Віхраны Мсцісл. *Вішні ў садзе пасьпелі — чырвоныя ўжо.* Дзягавічы Калініншчына. 2. Паспець, зрабіць што ў час. *Ні пасьпеюць яны справіцца сяньні, штоп ураньні выіхаць.* Арцёмаўка Міласл. *За дзінь так хлопіц нывылачыўсь, што чуць у хату уваліўсь, так і заснуў, і разуцца ні пасьпеў.* Бяседавічы Хоцім.

ПАСЬПІВА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Паспяваць, рабіцца спелым. *Жыта ўжо стала пасьпіваць — па ўзгорках жоўтыя ўжо стала.* Шарэйкі Касцюк. 2. Паспяваць, упраўляцца. *Мы гулялі ў капусту, дык ён чуць пасьпіваў атхапліваць рукі.* Арцёмаўка Міласл.

ПАСЬСЕ́КЧЫ [пасьсе́ч], *дзеясл.* Пассякаць. *Етыя кусьця нада ўсё пасьсекчы і спаліць.* Маравілле Касцюк.

ПАСЬСІКА́ЦЬ, *дзеясл.* Пассякаць. *Усі асіны пасьсікалі, адні пні тырчаць.* Парадзіна Мсцісл.

ПАСЬЦЕ́ЛЬ, -і, *ж.* Пасцель. *Пысьцялі пасьцель, я лягу спаць.* Прыпечына Калініншчына. *Зыслані пасьцель новыю дзяругыю.* Новы Дзедзін Міласл.

ПАСЬЦЕ́ЛЯ, -і, *ж.* Пасцель. *Мыя пасьцеля зыслана.* Палуж Краснап. *Зыслалі пасьцелю пасьцілкаю.* Машавая Бялынкав.

ПАСЬЦЕ́РЦЬ, *дзеясл.* Абцерці, сцерці. *Галубцы пасьцёрлі ўсю крышу.* Хлышчова Мсцісл.

ПАСЬЦІ́, *прысл.* Амаль. *Дужа дрэнна пумалолі муку: як сеіш, дык зыстаецца пасьці пылавіна асевык.* Слаўнае Мсцісл. *Клевір у нас цяпер многа сеюць, пасьці што кожный селянін.* Пірагова Мсцісл.

ПА́СЬЦІВІЦЬ, *дзеясл.* Пасвіць. *Сяньні пагонім кароў пасьцівіць на выжары.* Залесавічы Крыч. *Пасьцівіць кыня ня хочыш, а езьдзіць любіш, каб ты жыватом езьдзіў.* Гібалы Касцюк.

ПАСЬЦІЛА́ЦЬ, *дзеясл.* Пасцілаць, засцілаць. *Німа чым пасьцелі пасьцілаць, дык так ны саломе і сьпім.* Высокі Бор Краснап.

ПАСЬЦІ́ЛКА, -і, *ж.* Посцілка. *Пасьцілка ўжо брудныя ны пасьцелі, зысьцялі, мама, чыстую.* Залесавічы Крыч. *Ну, як жа гэста спаць на голай саломе — хоць бы пасьцілку дала зыслаць.* Ушакі Чэрык. *У хаці халонна, пыд аднэю пасьцілкыю зьмерзьніш.* Арцёмаўка Міласл. *Дай мне пасьцілку пакрыцца, ато холадна спаць будзе.* Усполле Раснян.

ПАСЬЦІ́СЯ [па́свіцца, па́сца], *дзеясл.* Пасвіцца. *Коні пасуцца ў аборку.* Кокатава Мсцісл. *Ны ячменішчы пасьлісь каровы.* Іванаўка Хоцім. *Конь пасецца на выгыры.* Маластоўка Краснап.

ПАСЬЦЬ, *дзеясл.* Пасвіць. *Завёў кыня ў нашу загырыдзь і пасецъ сабе.* Бяседавічы Хоцім.

ПАСЬЦЯРО́ЖКА, -і, *ж.* Засцярога. *Ну хоць бы ён за вугал захінуўсь, як бег шалёны сыбака — пасьцярожка ніколі ні шкодзіць.* Ушакі Чэрык.

ПАСЯДЗЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Пасядзець. *Пасядзеў ён, абглядзеўся на новым месцы, цяпер у яго і хата свыя.* Пірагова Мсцісл.

ПАСЯЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Пасяліцца, асесці на жыццё. *За печкый у нас цыркун пасяліўсь, абыдзень цыркаіць.* Касцюковічы.

*Пасяліўся ў чужым дварэ і заўлыдаў усім дабром.* Сохана Мсцісл.

ПАТАЛАНІЦЬ, *дзеясл.* Паталаніць, пашчасціць. *Мне сяньні паталаніла: хадзіў вудзіць рыбу і паймаў шчупака хунтаў пяць.* Гібалы Касцюк.

ПАТАЧКА, -і, *ж.* Патачка, папушчэнне. *Ты толькі дай яму патачку, дык ён гылаву зьверніць.* Паходавічы Чэрык. *Ні давай яму патачкі, бо посьлі плакыць будзіш.* Гарманава Мсцісл.

ПАТВОРА, -ы, *м.* і *ж.* Пястун. *Ён у цябе патвора: ты патворьнічыіш яму.* Хвёдараўка Краснап.

ПАТВОРНІЧЫЦЬ, *дзеясл.* Патураць. *Будзеш яму патворнічыць у яго выхадках, дык ён табе ны гылаву узьлезе.* Парадзіна Мсцісл.

ПАТВОРНЫЙ, *прым.* Той, каму патворнічаюць [патураюць]. *Патворныя дзяўчына: ёй усе дызвыляюць. Патворный хлапец.* Хвёдараўка Краснап.

ПАТКРАПІЦЬ, *дзеясл.* Падмацаваць. *Далі яны пабедыць, паткрапілі мяне трохі, я і пашоў далій.* Пірагова Мсцісл.

ПАТКРЕПА, -ы, *ж.* Падмацаванне. *Тут піць ахота, а тут — жаркыта; ажно трапілыся і нам паткрепа: прынісла матка квасу ў глячку.* Пірагова Мсцісл.

ПАТНІЦА, -ы, *ж.* Нячыстая сіла. *Патніца цябе прынесла сюды — чорт цябе прынёс.* Куляшоўка Клім.

ПАТОПА, -ы, *ж.* Багна, дрыгва. *Конь узлез у патопу і зыхрясную.* Хвёдараўка Краснап.

ПАТПАВЕЦЬЦЯ, -я, *н.* Павець. *Пастаў кыня ў патпавецьця, а сам ідзі ў хату, пабедай ны дарогу.* Пухнава Раснян.

ПАТПІРЫЗАЦЦА, *дзеясл.* Падперазацца. *Надзеў тулуп, патпірызайся рэмням і паехаў у лес.* Пірагова Мсцісл.

ПАТПЛЕСЬЦЬ, *дзеясл.* Падплесці. *Курэц у лапці трэба патплесьці вярёўкый.* Крычаў.

ПАТПЛЁТЫК, -тка, *м.* Падплётак, лыка, што падплятаецца пад лапаць. *У етых лапцях трэба зрабіць патплётык.* Хвёдараўка Краснап.

ПАТПЛЁТЫЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад патплётык. *Кароціныкі дужа патплётычык, ня хопіць патплесьць.* Хвёдараўка Краснап.

ПАТПОЛЬЛЯ, -я, *н.* Падполле, яма пад падлогай [нарамі], куды ссыпаюць бульбу на зіму. *Мы ў хаці насыпалі цэлыя патпольля бульбы.* Слаўнае Мсцісл.

ПАТРАВА, -ы, *ж.* Патрава, страва. *Патрава сёньня нясмашная была, я ні наелыся.* Пацкава Мсцісл. *Сяньні ў нас адна патрава варыцца.* Залачова Мсцісл.

ПАТРАП'Е, -я, *н.* Атрэп'е, астаткі пры трапанні льну. *Лён дрэнный, дужа багата патрап'я.* Хвёдараўка Краснап.

ПАТРАЦІЦЬ, *дзеясл.* Патраціць. *Усе грошы патраціў німаведама на што.* Хоцімск.

ПАТРЕБА, -ы, *ж.* 1. Патрэба. *Дужый патребы ў етым німа, але ніхай будзіць у зыпас.* Маластоўка Краснап. 2. Вымога. *У яго зьвесныя патреба ад усіх — дай яму ў рукі: без етыга нічога ні зьдзелыць.* Лютня Краснап.

ПАТРЕБКА, -і, *ж.* Вымога невялікай каштоўнасці. *Біс патребкі ён ні дзелыць: хуць ны пайлітру, а дай.* Палуж Краснап.

ПАТРІПАЦЦА, *дзеясл.* Абабіцца, абнасіцца. *Нешта ў цябе скора патріпаліся рукавы, верна, матэрыя плыхая была.* Канічы Касцюк.

ПАТРІП'Я, -я, *н.* Атрэп'е. *Пяньку і лён пумялі, цяпер нада сыбраць патріпья і ўсцягнуць яго на крышу.* Бяседавічы Хоцім.

ПАТРОХУ, *прысл.* [Патроху], памалу. *Аддзяліўся ад братоў ну і мадзею патроху.* Сохана Мсцісл. *Патроху жывём.* Палуж Краснап.

ПАТРОШАЧКІ, *прысл.* Памянш. ад патроху. *Неяк жывём — мадзеем патрошачкі.* Старае Сяло Мсцісл.

ПАТРУПЕХЛЫЙ, *прым.* Струхлелы, гнілы. *З гэтай калоды карыта ня зьдзелаеш — яна саўсім патрупехлая.* Пірагова Мсцісл.

ПАТРУПЕХНУЦЬ, *дзеясл.* Струхлець, згнісці. *Дровы за лета патрупехнулі ні паколатыя.* Сапрынавічы Мсцісл.

ПАТРУПНЕЛЫЙ, *прым.* Струхлелы, гнілы. *Патрупнелае дрэва нічога няварта.* Барысавічы Клім.

ПАТРУПНЕЦЬ, *дзеясл.* Струхлець, згнісці. *Етыя дровы яшчэ ў лесе патрупнелі.* Барысавічы Клім.

ПАТРУХА, -і, *ж.* Патруха, аціркі з сена. *Вымеці патруху з сяніцы.* Крычаў. *Сена ўсё скарміў, толькі адна патруха асталысь.* Негін Касцюк. *Сухоя сена пірацёрлыся ны патруху.* Сохана Мсцісл.

ПАТРУШЧЫЦЬ, *дзеясл.* Патрушчыць, пабіць на друзачкі. *Косьці чылавеку патрушчыў.* Маластоўка Краснап. *Рукою ў мылацілку пыпаў, дык усі пальцы патрушчыла — калека цяпер.* Парадзіна Мсцісл. *Купіў на бызары гаршчок і міску, дык покі даехаў двору — патрушчыў.* Палуж Краснап.

ПАТРЭБНА, *прысл.* Трэба. *Хлапцу патрэбна вучыць вурок, а вы пірышкаджаеце.* Ганнаўка Клім.

ПАТРЭБНЫЙ, *прым.* Патрэбны. *Патрэбный ты мне, як леташні сьнег ны градых.* Паўлавічы Клім.

ПАТРЭП'Я, -я, *н.* Патрэп'е, атрэп'е ад ільну. *Патрэп'я нада сыбраць і будзем ім абтыкаць шчэлкі.* Новыя Капачы Мсцісл.

ПАТРЭСЬЦЬ, *дзеясл.* Патрэсці. *Міхась нераты пыставіў наныч, нада будзець іх патрэсьць.* Вярбоўка Раснян. *Калі засурыў вочы, дык нада за бечка патрэсьць.* Гібалы Касцюк.

ПАТСІТЫК, -тка, *м.* Падсітак, густое рэшата. *Мы сваю муку сеім ні на решыта, а ны патсітык, дык і хлеб бялейшы зы вашыга.* Слаўнае Мсцісл.

ПАТСЛУХЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Падслухоўваць. *Ходзіць ды патслухывыіць, што людзі гаворяць.* Б. Хутары Краснап.

ПАТСОБНЫЙ, *прым.* Дапаможны. *Ета мой патсобный работнічык, біз яго наўряд я што змог бы.* Шумячы.

ПАТСЬВЕШНІК, -а, *м.* Ліхтар. *Купіў патсьвешнік, а на што ён мне? От, абы гро-*

*шы аддаў, луччы б купіў красіну.* Палуж Краснап.

ПАТТО́ПА, -ы, *ж.* Падпал, падтопка. *Пашчыпай тэй цільпушок ны паттопу.* Куркаўшчына Мсцісл. *Ныськіпай лучыны ны паттопу.* Слаўнае Мсцісл.

ПАТУ́ЖНЫЙ, *прым.* Бойкі, такі, дзе адбываецца вялікі рух. *Тутака патужный шлях, дык і масты ставяць.* Гарадзец Бабр.

ПАТУ́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Патужыць, паплакаць. *Як памёр мой Янка, дык здывалыся, што й сьвет зачыніўся, а цяпер во, жыву. Так і ты патужыш па ём, ды забудзесься.* Дубеец Касцюк. *Зося пы сваім мужу мала патужыла: ужо з хлыпцамі гуляіць.* Бабынічы Мсцісл.

ПАТУ́ЗЫЦЬ, *дзеясл.* Патузаць. *Патузый вожкі — ніхай конь пубяжыць троху.* Палуж Краснап.

ПАТУЛУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Патаптаць, падратаваць. *Пусьціў коні ў жыта і ўсё патулуваў.* Куркаўшчына Мсцісл.

ПАТУРА́ЦЬ, *дзеясл.* Патураць, даваць паблажку. *Ня трэба патураць дзіцёнку, бо посьлі зь ім нічога ня зьдзелыіш.* Дубеец Касцюк.

ПАТУ́ХНУЦЬ, *дзеясл.* Патухнуць. *Лямпа патухла, мабыць, красіну мала налілі.* Янаўка Мсцісл. *Лажыцеся спаць, ато хутка агонь патухніць.* Вярбоўка Расням.

ПА́ТЧЫРКА, -і, *ж.* Падчарыца. *Кожная матка сваю дачку болі любіць, чым патчырку.* Парадзіна Мсцісл.

ПАТШЫВА́ЦЦА, *дзеясл.* Падмазвацца. *Ні патшывайсь ды нас, і біс цябе абыйдземся.* Хвёдараўка Краснап.

ПАТШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Падшыць. *Ету сьвітку патшыць шубый — ладная апрятка была б.* Хвёдараўка Краснап.

ПАТЫ́КА, -і, *м.* Патака. *Як патыкі наеўсь, іврацъ верня.* Хвёдараўка Краснап.

ПАТЫКА́ЦЬ, *дзеясл.* Патыкаць. *Што снуеш у кроснах, дык гэта уснова, а што патыкаеш — уток.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ПАТЫЛА́НІЦЬ, *дзеясл.* Паталаніць, пашчасціць. *Патыланіла яму ўзяць такую добрую жонку.* Слаўнае Мсцісл.

ПАТЫ́ЛІЦА, -ы, *ж.* Патыліца. *Пасьлізнуўся ны дарозі, дык як жахнуўся патыліцаю, дык думаў уся гылыва разьляцелыся.* Гарманава Мсцісл. *У мяне баліць патыліца.* Хоцімск. *Дай яму па патыліцы.* Сохана Мсцісл.

ПАТЭ́ЛЬНЯ, -і, *ж.* Патэльня, скаварада. *Патэльню сала насквары́ла і на стол падала. Патэльня гарачая.* Крычаў.

ПАЎВО́ЗА, *прысл.* Паўвоза. *Нядзіва што навільнік зламіўся: засіліў зразу паўвоза гною.* Бяседавічы Хоцім.

ПАЎДЗЁЛЫЦЦА, *дзеясл.* Запэцкацца. *Увесь чыста ў дзёгыць паўдзелыўся.* Палуж Краснап.

ПАЎДЗЁН, -у, *м.* Паўдзённы гуд усякіх мошак. *Нейдзі пчаліны рой шуміць? Ды не! Ета паўдзён шуміць.* Горкі Краснап.

ПАЎДЗЁН, -дня, *м.* Поўдзень. *Сонца ўжо ны паўдзён — пыра абедыць.* Арцёмаўка Міласл.

ПАЎЗ, *прыназ.* Паўз, усцяж. *Паўз рэчкі расьцець вірбалоз.* Хвёдараўка Краснап.

ПАЎЗБО́К, *прысл.* Збоку. *Бярёзкі растуць паўзбок дарогі.* Тур'я Чэрык.

ПАЎЗБО́Ч, *прысл.* Убаку, убок. *Паўзбоч дарогі быў вялікі лог.* Тур'я Чэрык.

ПАЎЗСТАРАРЭ́ЧЧУ, *прысл.* Каля старога русла ракі. *Шукай свайго кыня паўзстарарэччу, я там яго бачыў.* Хвёдараўка Краснап.

ПАЎЗУ́Н, -а, *м. бат.* Паўзунок. *Іншый раз, як жнеш — як учэпіцца паўзун зы руку ці зы спадніцу, аж ні дразу атарвеш.* Пірагова Мсцісл.

ПАЎЗЬБЕ́РЫЖЖУ, *прысл.* Уздоўж. берага. *Я паўзьберыжжу йшла.* Хвёдараўка Краснап.

ПАЎЗЬНІЗЬЗЮ, *прысл.* Нізка над зямлёю. *Як сыбяруцца тубуном ластыўкі ды пачнуць літаць паўзьнізьзю, дык будзя дожджь.* Палуж Краснап.

ПАЎЗЬЦІ́ [поўзьць], *дзеясл.* Паўзці. *Нейкыя казюлька паўзець у цябе пы плячы.* Хвёдараўка Краснап.

ПА́ЎКА, -і, *м.* Уласнае імя Павел. *Быў у нас дзяк Паўка Піневіч, а посьлі ён стаў кымісарым.* Палуж Краснап.

ПАЎКА́, -і, *ж.* Палка, кій. *Ён кінуў паўку ў сыбаку, ды ні пупаў.* Хоцімск.

ПАЎЛЮ́БЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* [Паўлюбліваць], прымусіць кахаць. *Хіма, як відаць, паўлюблія майго хлыпца.* Бялынкавічы.

ПАЎЛЮ́К, -а, *м.* Уласнае імя Павел. *Паўлюк насушыў сабе ў дарогу хатыль сухарой.* Гібалы Касцюк.

ПАЎМІ́ЦЬ, *дзеясл.* Павучыць. *Паўмі ты хлыпца, ато балдэс-балдэсым.* Палуж Краснап.

ПАЎНЮ́ХТЫНЬКІЙ, *прым.* Паўнюткі, поўны да адказу. *Паўнюхтынькыя вядро брушніц стаіць ны стале.* Б. Хутары Краснап.

ПАЎПЕ́РЬЦІСЯ, *дзеясл.* Упарціцца. *Нада ж было іму паўперьціся, калі біз яго нічога ні палучыцца.* Карма-Пайкі Краснап.

ПАЎПІ́РІЦЦА, *дзеясл.* Упарціцца. *Ён, як той бык: паўпіріцца, і зь места ні зрушыш.* Палуж Краснап.

ПАЎПРЫЦА, -ы, *ж.* Шпень, сталёвы шпунт, на які насаджана матавілка ў калаўроце. *Нывінці паўпрыцу.* Хвёдараўка Краснап.

ПАЎПЫЯ́СКА, -і, *ж.* Вузенькі паясок. *Ета ні поіс, а паўпыяска.* Бялынкавічы.

ПАЎРАЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Раздражніцца, знервавацца. *Ды таго яго дывялі, так паўразіўся, што, як няпрытомны, стаў крычаць да лаяцца.* Ушакі Чэрык.

ПАЎСТА́ВІЦЬ, *дзеясл.* Паўстаўляць. *Бярдоўнік паўставіў трасьцё у старое берда.* Юшкавічы Расням.

ПАЎСХАПІ́ЦЦА, *дзеясл.* Паўзнімацца. *Вой, руку абварыла! Палянь, як скора бурболкі паўсхапілісь.* Ушакі Чэрык.

ПАЎСЮ́ДЫХ, *прысл.* Усюды. *Ці ета тольki ў нас? Ета паўсюдых так дзелаецца.* Пірагова Мсцісл.

ПАХ, -у, *м.* Пах. *Ад яго ідзе дрэнны пах.* Чыгрынаўка Расням.

ПА́ХА, і, *ж.* Паха. *Баліць у мяне пыд пахый.* Хвёдараўка Краснап.

ПАХАЛАДА́ЦЬ, *дзеясл.* Пахаладзець. *Калі курыца заквохчыць, то яе нада колькі дзён падзіржаць у погрібі, каб яна пахаладала.* Пірагова Мсцісл.

ПАХА́ЦЬ, *дзеясл.* Араць поле. *Такей байбус, а яшчэ пахаць ня ўмеіць.* Горкі Хоцім. *Пахаць будзем атгэтуль і вун да тае мяжы, што відна.* Пірагова Мсцісл.

ПА́ХВА, -ы, *ж.* Вульва. *Мыладэй, а ды пахвы ужу лезіць — ідзі вон!* Маластоўка Краснап.

ПАХВІ́НА, -ы, *ж.* Пахвіна. *Карова перылазіла чэрыз плот і на колік разырвала шкуру кыла пахвіны.* Сохана Мсцісл.

ПА́ХІ, -ыў, і -оў, *мн. л.* Духі, парфума. *Купіў сабе пахоў — сільна пахнуць.* Палуж Краснап.

ПАХІ́ЛА, *прысл.* Пахіла, крыва. *І пыставіў жа ты сваю хату нейк пахіла.* Ушакі Чэрык.

ПАХІ́ЛЫЙ, *прым.* Пахілы, сагнуты. *Міхась гэты стаў нейкі пахілы пысьля сьмерці сына: гора яго сагнула.* Дарагая Крыч.

ПАХІСНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Пахіснуцца. *Ішлі мы чэріз речку пы кладцы, я быў пахіснуўся і чуць ні ўваліўся ў ваду.* Слаўнае Мсцісл.

ПАХІСЬЦІ́ЦЕЛЬ, -я, *м.* [Выкрадальнік, злодзей], хапун. *Нейкі пахісьціцель знайшоўсь, я клаў тапор тут і ўжо німа.* Хвёдараўка Краснап.

ПАХЛАПНІ́, -ёў, *мн. л.* Лапці, плеценыя з вяровачак. *Бацька сплёў новыя пахлапні.* Бель Мсцісл. *У нас жылі калужцы і найчылі мяне плесьць пахлапні.* Гібалы Касцюк.

ПАХМЕ́ЛЬЛІЙКА, -а, *м.* Пахмелка. *А ў чацьвер я с пахмельлійка ліжала,* || *А ў пяцінку буйна голыва балела.* З нар. песні, М. Г. 45.

ПАХМЕ́ЛЬЛЯ, -я, *н.* Пахмелле [пахмелка]. *Учора ўсё прапіў і ны пахмельля ні зысталося.* Маравілле Касцюк.

ПАХМУ́РНА, *прысл.* Пахмурна, хмарна. *Нешта пахмурна стала, нада сена згресьць, ато штоб дождж ні пашоў.* Арцёмаўка Краснап.

ПА́ХНУЦЬ, *дзеясл.* Пахнуць. *Цьвяты жасьміну смашна пахнуць.* Сохана Мсцісл. *Чабор прыемна пахнець.* Юшкі Мсцісл. *Рана затулілі юшку — пахніць чадым.* Янаўка Мсцісл.

ПАХО́ДЖЫЙ, *прым.* Падобны. *Міла* (трава) *паходжыя ны саку.* Хвёдараўка Краснап. *Курапы паходжы ны лягушык, толькі тоўстыя, чорныя і скыкаць ня могуць, а поўзыюць.* Слаўнае Мсцісл.

ПАХО́ЖЫЙ, *прым.* Падобны. *Маркоўнік* (трава) *пахож ны націну морквы.* Пірагова Мсцісл.

ПА́ХЫТА, -ы, *ж.* Ворыва. *Сьвежыя пахыта, толькі што ўспыхалі.* Бяседавічы Хоцім. *У нас усяго дзісяціна сінакосу і пахыты — трі, во і еж хлеб.* Слаўнае Мсцісл.

ПАЦАЛУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Пацалавацца. *Давай ужо на астаньні пацалуемся.* Пірагова Мсцісл.

ПАЦАЛУ́НАК, -нка, *м.* Пацалунак. *Было ўсё — і пацалункі і ўсё іншае.* Негін Касцюк.

ПАЦЕРА́ЦЦА, *дзеясл.* Згубіцца. *Конь пацераўся ў хмызьняку.* Чыгрынаўка Раснян.

ПАЦЁРЯ, -і, *ж.* Згуба. *Ета пацеря грошы сусім яго прыбіла.* Слаўнае Мсцісл.

ПАЦЁЧ, *дзеясл.* Пацячы. *Нада пыдмацуваць абручы ны кадушкі, ато пацеч моіць.* Залачова Мсцісл. *Гылаву расьсеклі, аж мозык пацёк.* Хвёдараўка Краснап.

ПАЦЁХА, -і, *ж.* Пацеха. *Была ў мяне пацеха — дычка, і тая памёрла.* Лешчынка Мсцісл.

ПАЦЁШНА, *прысл.* Пацешна. *Пацешна глядзець на гульні моладзі.* Сохана Мсцісл.

ПАЦЁШЫЦЬ, *дзеясл.* Пацешыць. *Узыйшла мне на вум думка пацешыць жонку.* Слаўнае Мсцісл.

ПАЦЁМКІ, -кыў, *мн. л.* [Пацёмкі], цемната. *Ён доўга мацыў у пацёмкых кыля дзвярэй, усё іскаў клямкі.* Арцёмаўка Міласл.

ПАЦІ́РА, -ы, *ж.* Згуба. *Два рублі прапіў — еткыя паціра.* Лютня Краснап.

ПАЦІРА́ЦЬ, *дзеясл.* Згубіць, страціць. *Кыцярына хустку пацірала, дык як зынясе на ўсё поля — усёдно, як па мёртвыму.* Дзеражна Касцюк. *Янка, а йдзе ты паціраў свой ножык?* Расна.

ПАЦІ́РКІ, -рак, *мн. л.* Пацеркі. *Нычапіла поўну шыю паціpак.* Мсціслаў. *Я купіла сабе надзіманыя паціркі.* Зарэчча Мсцісл.

ПАЦІ́ХЕНЬКУ, *прысл.* Паціху, ціхенька. *Я падпоўз паціхеньку і злавіў віріб'я.* Лешчынка Мсцісл.

ПАЦІ́ХУ, *прысл.* Паціху, ціха, асцярожна. *Гыварі паціху, ато хто-нібудзь пачуіць.* Лешчынка Мсцісл.

ПАЦІХУ́СЕНЬКУ, *прысл.* Зусім ціха. *Я паціхусеньку падыйшоў к ёй і схапіў ззаду.* Лешчынка Мсцісл.

ПАЦУ́ГЫЦЬ, *дзеясл.* Пашкрэбаць, пайсці, стукаючы нагамі. *Пацугый круг хаты.* Хвёдараўка Краснап.

ПАЦУЛУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Пацалавацца. *Ён жа, як чужы: як ехаў з дому, дык нават на 'тклон з маткый ні пацулуваўсь.* Ушакі Чэрык.

ПАЦУЛУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Пацалаваць. *Хлопіц дзеўку абняў і пацулуваў.* Негін Касцюк.

ПАЦЫ́РКАЦЬ, пацыркыць, *дзеясл.* [Пацыркаць], падаіць. *Я толькі кароў пацыркаю, і будзем сьнедыць.* Бабынічы Мсцісл. *Матка карову пацыркыіць, дык мылычка дасць.* Арцёмаўка Міласл. *Ты гатуй вячэру, а я пыбягу кароў пацыркыю.* Юркаўка Крыч.

ПАЦЬМЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Патлець [перагарэць без агню]. *Пакуль мы прышлі, дык усі гылавешкі ны цяплішчы пацьмелі.* Бардзіч Краснап.

ПАЦЬСЬВЁШНІК, -а, *м.* Ліхтар, падсвечнік. *Пацьсьвешнік стаў ны стале, ніхай стаіць.* Хоцімск.

ПАЦЬЦЁЛЫК, -лка, *м.* [Падцёлак], двухгадовая цялушка. *У нас карова і пацьцёлык сёліта, верна, целіцца, і ўся наша худоба.* Арцёмаўка Міласл.

ПАЦЯГНУЦЬ, *дзеясл.* Пацягнуць. *Дывай яму восемку чарвей, дык ён пацягне.* Касцюковічы.

ПАЦЯРАЦЦА, *дзеясл.* Згубіцца. *Рыгор, глядзі, шварынок з грабёнкі каб ні пацярайся.* Бязводзічы Мсцісл.

ПАЧАРНЕЦЬ, *дзеясл.* Пачарнець, зрабіцца чорным. *Ах, якей жа ты, брат, заядлый, аж пачарней.* Смолькаўская Буда Бялынкав.

ПАЧАСТУВАЦЬ, *дзеясл.* Пачаставаць. *Госьці прыехалі — нада іх пачаструваць.* Куркаўшчына Мсцісл.

ПАЧАТАК, -тка, *м.* Верацяно, запоўненае пражай. *Сястра ныпряла пачатак.* Стары Дзедзін Міласл. *За вечыр я ныпрала два пачаткі.* Зоры Чэрык. *Дзяўчына напрала пачатак.* Лапаціна Мсцісл.

ПАЧАЦЦА, *дзеясл.* Пачацца. *Пачылася сінакосная пыра: заўтра паедзім ны Натыпу касіць.* Пірагова Мсцісл. *Пачылася атлыга, сьнег увесь згоня.* Хвёдараўка Краснап.

ПАЧАЦЬ, *дзеясл.* Пачаць. *Учора буханку хлеба пачалі, а сёньня ўжо ўся — ны вас хлеба ні ныпасесься.* Азерцы Клім.

ПАЧОПКА, -і, *ж.* 1. Пачопка [дужка або], перавязка ў вядры. *Ныбрала вядро вады, а пачопка лопнула, і выда разьлілась.* Пацкава Мсцісл. *Зьві новую пачопку, ато вядро рызаб'ём!* Новыя Капачы Мсцісл. *Ныбраў вады, пыдчапіў кароміслам зы пачопку, а іна й пырвалыся.* Вярбоўка Расням. 2. Пачопка, матуз у калысцы, за якія калышуць яе. *У люлькі пачопка была слабыя, як пыцягнуў нагою, дык іна і лопнула.* Лешчынка Мсцісл.

ПАЧОСТКА, -і, *ж.* Частаванне. *Ніякый пачосткі ні було: пысядзелі троху ды пайшлі двору.* Палуж Краснап.

ПАЧУКЫЦЬ, *дзеясл.* Пагушкаць на руках дзіця, падкідваючы яго лёгенька ўверх. *Пачукый дзіцёнка.* Хвёдараўка Краснап.

ПАЧУЦЬ, *дзеясл.* Пачуць. *Кінь ты слухаць етыга круціля: ад яго праўды ні пачуіш.* Парадзіна Мсцісл. *Ноччу сыбакі некыга, знаць, пачулі: надта кідаліся і брыхалі.* Арцёмаўка Міласл.

ПАЧЦІВЫЙ, *прым.* Пачцівы, ветлівы. *Ён чылавек пачцівый, нікому абідныга слова ні скажыць.* Залесавічы Крыч.

ПАЧЫН, -а, *м.* Вясло. *Ідзі прынясі пачын, паедзім рыбу лавіць.* Лютня Краснап.

ПАЧЫНА, -ы, *ж.* Вясло. *Хлопцы зыбралі пачыны і пашлі кытацца ны чайне.* Роськаў Калінінішчына. *Грябец з цябе — пачыны ні паднімець, дывай мне, я буду гресьць.* Куравічы Мсцісл. *Мы ехылі ў лодцы і граблі дзьвюмя пачынамі.* Малюшын Краснап.

ПАЧЫНАЦЬ, *дзеясл.* Пачынаць. *Пачынай ат'ізнова, я ўжо тое забыў.* Пірагова Мсцісл. *Пачынаюць ужо людзі бульбу капаць.* Хоцімск. *Стары ўжо ён — твар пачынае бабчыцца.* Касцюковічы.

ПАЧЫНІЦЬ, *дзеясл.* Паправіць [адрамантаваць]. *Цугун наш трэба пачыніць, бо ён цячэць.* Расна. *Толькі пачыніў сыпагі, а яны ізноў рызваліліся.* Тур'я Чэрык.

ПАЧЫНЫК, -нка, *м.* Пачатак, пачын. *Ны пачынык нашыга дзела дывай вып'ім!* Слаўнае Мсцісл.

ПАЧЫРВАНЕЦЬ, *дзеясл.* Пачырванець. *Ат холаду ў дзеўкі шчокі пачырванелі, як макаў цьвет.* Сохана Мсцісл.

ПАЧЫСКІ, -аў, *мн. л.* Пачаскі [пачасce]. *Пачыскі нада сабраць, і будзем іх прасьці.* Новыя Капачы Мсцісл.

ПАЧЫСЫ, -аў, *мн. л.* Пачаскі [пачасce]. *Кужыль свой я ўжо весь пупряла, січас пачысы пряду.* Юркаўка Крыч. *Сёліта лён добрый, вылакністый, дык і пачысаў мала — адзін кужаль.* Парадзіна Мсцісл.

ПАЧЫСЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Пачысціць. *Нада комін пачысьціць, ато сажа зыгарецца можыць.* Новыя Капачы Мсцісл.

ПАЧЫТАЙ ШТО, *прысл.* Амаль што. *Ну вось, мы пачытай што й двору прыехылі.* Хоцімск.

ПАЧЫТАЦЬ, *дзеясл.* Пачытаць. *Зразу пачытаць, а пысьля пагуляць.* Канічы Касцюк. *Пачытай мне што-небудзь, а я паслухыю.* Журбін Бялынкав.

ПАЧЫХАЦЬ, *дзеясл.* 1. Пачыхаць, чыхнуць. *Тыбакі як панюхаў, дык пачыхаў хоць да сьлёз.* Шумячы. 2. Пагараваць. *Пачыхыіш, ніпраўда, як будзіш бяз хлеба.* Хвёдараўка Краснап.

ПАЧЭСНЫЙ, *прым.* Пачэсны. *Ны свадзьбі яго пысадзілі ны самыя пачэсныя места, на куце, кыла мыладых.* Арцёмаўка Міласл.

ПАША, -ы, *ж.* Паша. *Летым у нас харошыя паша, каровы аб'ідаюцца, і к восені хуць сала зь іх рэж.* Арцёмаўка Міласл. *Паша сёліта дрэнныя — усё павыгырыла.* Палуж Краснап.

ПАШАНІЦА, -ы, *ж.* Пшаніца. *Пашаніца сёліта ні зырадзіла, адзін гугіль парос.* Пірагова Мсцісл.

ПАШАНІЧНЫЙ, *прым.* Пшанічны. *Пашанічныя мука бялей за ржаную.* Юшкі Мсцісл.

ПАШАНЦІЦЬ, *дзеясл.* Пашанцаваць, пашчасціць. *Табе сёліта пашанціла: сена бытата ныкасіў і зы пагоду убраў яго.* Гібалы Касцюк.

ПАШАПТАЦЦА, *дзеясл.* Сапсавацца. *Цыбуля пашапталася ў агародзе, прыдзецца шмат выкінуць.* Крычаў.

ПАШЛЫНДАЦЬ, *дзеясл.* Пахадзіць, пакруціцца. *Ён любіць там пашлындаць, айдзе пахніць сымагонкаю.* Бяседавічы Хоцім.

ПАШТОДЗЕНЬ, *прысл.* Штодзённа, штодзень, кожны дзень. *Купцы паштодзень едуць зы тыварым.* Самацэвічы Касцюк.

ПАШУКАЦЬ, *дзеясл.* Пашукаць. *Пашукай, унучак, мае рукавіцы.* Іванаўка Хоцім. *Мы зыхувалі яго кнігу, а ён пашукаў, пашукаў ды пайшоў так дыхаты.* Хоцімск.

ПАШЦІ, *прысл.* Амаль. *Па етыму масту нільга праехыць, пытаму што яго пашці пылавіну вясной зьнясло.* Арцёмаўка Міласл.

ПАШЫВАЛІЦЦА, *дзеясл.* [Пашавяліцца], узварухнуцца. *Стыяў тры часы нізьдзьвіжыма на 'дным месьці і дайжа ні пашываліўсь.* Арцёмаўка Міласл.

ПАШЫРІНЫЙ, *прым.* Пашыраны, зроблены больш шырокім [расшыраны].

*Спадніца залішня пашырініыя ўнізе: так ні гадзіцца.* Залачэўка Краснап.

ПАШЫ́РІЦЬ, *дзеясл.* Пашырыць, зрабіць больш шырокім. *Плацьця вузка пашылі, нада пашырыць.* Брылёўка Краснап.

ПАШЫРЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Пашыраць. *Несьцірь штогод пашыряіць сваю пахыту: то кусьця выдряў, то балота асушыіць.* Б. Хутары Краснап.

ПАШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Пашыць. *Я пашыў сабе новыя галіхвэ.* Хоцімск. *Пашыла сабе тры навылычкі ны падушкі.* Шумячы.

ПАЯВІ́ЦЦА, *дзеясл.* Паявіцца, з'явіцца. *Ваня! Ужо галубейняткі ў катуху паявіліс.* Новыя Капачы Мсцісл.

ПАЯСО́К, -ска, *м.* Паясок. *Аперажам мы цябе залатым паяском.* Пірагова Мсцісл.

ПЕ́ВЕНЬ, пе́ўня, *м.* Певень. *Певень пяець ніўпару, мабыць, пагода пераменіцца.* Кісялёва Буда Краснап. *Наш певень захварэў.* Лабаноўка Калінінщчына. *Ну й дзюбка ў етыга пеўня.* Ушакі Чэрык.

ПЕ́КЛА, -а, *н.* Пекла. *Пыпаўся я к яму ў рукі, як у пекла.* Добрае Мсцісл. *Ня жысьць, а пекла нейкыя.* Смолькаўская Буда Бялынкав.

ПЁКЛА, -ы, *ж.* Уласнае імя Тэкля. *Нашу Пёклу поп нызываіць Фёкла!* Бяседавічы Хоцім.

ПЁКЧЫ [печ], *дзеясл.* Пячы. *Рысклыдай цяпло ды кладзі больш лымачча — будзем бульбу пекчы.* Лютня Краснап.

ПЕ́ЛЬКІ, пе́лік, *мн. л.* Грудзі [верх грудной клеткі]. *Матрос выставіў голыя пелькі. Схувай ты свае пелькі, ато прістудзісься.* Хвёдараўка Краснап.

ПЕНЬ, пня, *м.* Пень, частка дрэва, што застаецца пры зямлі. *Сыбака абнюхаў пень і пабег далей у лес.* Белы Камень Бялынкав. *Кыля пня я найшоў паўкошыка апенак.* Юшкі Мсцісл.

ПЕРАБА́ВІЦЦА, *дзеясл.* Пераехаць рэчку на другі бок, перапрaвіцца. *Ці ня ведаеш, хлопча, як тут перабавіцца на тэй бок рякі?* Куравічы Мсцісл.

ПЕРАБА́ВІЦЬ, *дзеясл.* Перапрaвіць, перавезці на другі бок рэчкі. *Рыбалоў ны чаўні перабавіў чыраз рэчку на другі берыг двух чылавек.* Сохана Мсцісл.

ПЕРАБО́РКА, -і, *ж.* Перагародка. *Зрабілі ў хаці пераборку, і стала два пакоі.* Парадзіна Мсцісл.

ПЕРАВАДНЯ́, -і, *ж.* Бервяно ў варштаце, на якім гнуць палазы. *Пераваднья ня крэпкыя, можыць злымацца ад етыга полыза.* Ташна Клім.

ПЕРАВЕ́РЗЬЦЬ, *дзеясл.* Пераблытаць, перакруціць у расказе. *Я рыскызала так, як нада, а іна ўсе пераверзла.* Парадзіна Мсцісл.

ПЕРАВО́ДЗІНА, -ы, *ж.* Бэлька [доўгая і тонкая]. *Ета брайно пойдзя на пераводзіну.* Хвёдараўка Краснап.

ПЕРАВЯ́ЗВАЦЬ, *дзеясл.* Нанава ўвязваць. *Тыя вазы паехылі ўперыд, а мой рызьвізаўся, пачаў я яго ізноў перавязваць ды астаўся ад іх.* Пірагова Мсцісл.

ПЕ́РАВЯЗЬ, -і, *ж.* Перавясла, скручаная жменя саломы, якою звязваюць снапы. *Снапы рассыпаюцца, плахея перавязі дзелыцця.* Юркаўка Крыч.

ПЕРАГЛЯДА́ЦЦА, *дзеясл.* Пераглядвацца, разглядацца нанава. *Аскарджаныя справы будуць пераглядацца.* Пірагова Мсцісл.

ПЕРАГО́Н, -у, *м.* 1. Месца, праз якое пераганяюць статак на другі бок рэчкі, брод. *Перагон тут кепскій — гразкі дужа.* Хвёдараўка Краснап. 2. [Слабая] самагонка. *Ета ўжо перагон, ніякай сілы ня маіць, во піршак быў — дык ета сымагонычка!* Там жа.

ПЕРАГО́ННЫЙ, *прым.* Перагонны, той, праз які праходзіць часта быдла. *Ета пожня перагонныя, тут то туды, то сюды быдлу перыгыняюць.* Хвёдараўка Краснап.

ПЕ́РАД, -а, *м.* Перад. *Во ныклаў воз: ні знаць, дзе зад, а йдзе перад.* Жалезніца Чэрык.

ПЕ́РАД, *прыназ.* Перад. *Эйш, пан якей! Стой перад ім на чыку.* Куркаўшчына Мсцісл. *Перад кылядамі мы забілі вапрука.* Барысавічы Клім.

ПЕРАДО́УКА, -і, *ж.* Пярэдня, тоўстая вяроўка, якая закладваецца на канец рубля пры ўвязванні воза з сенам. *Зыкладзі там, сынку, перадоўку ны канец жэрдзі.* Новыя Капачы Мсцісл.

ПЕРАДРА́ЗА, -ы, *ж.* Крыўлянне, карыкатура. *На што ета перадраза? Намылюваў нейкыю перадразу.* Палуж Краснап.

ПЕРАЕЖДЖА́НЫЙ, *прым.* Падарожны. *Хто гэста ў вас такі? Так, нейкі пераежджаны, ездзіць во, а куды — ні даб'есься.* Ушакі Чэрык.

ПЕРАЕ́ХАЦЬ, *дзеясл.* Пераехаць. *Пакуль пераехаў лужу, увесь абрызкаўся гразьзю.* Сохана Мсцісл.

ПЕ́РАК, *прыназ.* Папярок. *Перак рэчкі бірвяно пыклалі, штоп пераходзіць можна было.* Буліна Касцюк.

ПЕРАКІ́НУТЫЙ, *прым.* Перакінуты. *Праз ручэй перакінуты жэрдкі для пераходу.* Сохана Мсцісл.

ПЕРАКІ́НУЦЬ, *дзеясл.* Перакінуць, кінуць на другі бок. *Міхась забіў піскленка і перакінуў праз плот у крапіву.* Вярбоўка Расням.

ПЕРАКСЬЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Перахрысціцца. *Бабушка кажыць, што калі йдзеш дслі царквы, то нада пераксьціцца.* Пірагова Мсцісл.

ПЕРАКУЛДЫ́КНУЦЦА, *дзеясл.* Перакуліцца. *Пакуль прыехалі, то разоў с пяць перакулдыкнулісь, такія вялікія выбоі ны дарозя.* Мсціслаў.

ПЕРАКУ́ПКА, -і, *ж.* Гандлярка, што перакупляе тавары з рук. *Ета ж перакупка — у цябе купіць, мне прыдасьць — тым і жыве.* Старае Сяло Мсцісл.

ПЕРАЛАМІ́ЦЦА, *дзеясл.* Пераламацца. *На поўдарозі вось пераламілась.* Пухнава Расням.

ПЕРАЛЕ́СКА, -і, *ж. бат.* Пралеска. *Яшчэ сьнег ня сыйшоў, а ўжо я сяньні відала пералеску.* Пірагова Мсцісл.

ПЕРАЛЕ́ТАК, -тка, *м.* Пералетак, пералетавалы бычок ці жарабя. *Свайго пералетка мы будзем аб'ежджваць налета.* Барысавічы Клім. *Есьць у мяне толькі кабыла з пералеткам.* Пірагова Мсцісл.

ПЕРАЛЯ́К, -у, *м.* Перапалох. *Ета хвароба стала ў яго з пераляку.* Сохана Мсцісл.

ПЕРАМАСЬЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Перамасціць, масціць нанава. *Нада мост у хаце перамасьціць, ато масьніцы некаторыя пагнілі.* Канічы Касцюк.

ПЕРАМА́ЦАЦЬ, *дзеясл.* Перамацаць. *У поцімку усюдых перамацаў, а зыпалак не знайшоў.* Гусарка Клім.

ПЕРАМЁТ, -а, *м.* [Перамёт], рыбацкая прылада, доўгі шнур, да якога прывязана некалькі кручкоў. *Трэба ўзяць перамёт ды нылавіць рыбы ны сьнеданьне.* Тур'я Чэрык.

ПЕРАМО́Т, -а, *м.* Перамот, памылка пры снаванні красён ці матанні маткоў. *Пачакай, Зося, ты тут перамот зрабіла, ні на той калок пылажыла.* Хвёдараўка Краснап. *Я матала маток і зрабіла перамот.* Зоры Чэрык.

ПЕРАМЯНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Перамяніць, змяніць на іншае. *Перамяні-ка ты гэту атосіну, ато яна лопніць.* Пірагова Мсцісл.

ПЕРАНАЧУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Переначаваць. *Пы дарозе мы заехылі ў вёску пераначуваць.* Мсціслаў. *Ня едзь уночы, пераначуй, а тады зраньня паедзіш.* Юркаўка Крыч.

ПЕРАНЕ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Перанесці. *Жыта перанесьлі ў клець.* Машавая Бялынкав.

ПЕРАНІЦАВА́ЦЬ, *дзеясл.* Пераніцаваць, перавярнуць на другі бок. *Ён сваю сьвітку насіў тры гады, а затым пераніцаваў і зноў носіць як бы новую.* Старае Сяло Мсцісл.

ПЕРАПАЛО́ХАЦЦА, *дзеясл.* Перапалохацца. *Ён перапалохаўся сыбакі.* Расна.

ПЕРАПАЛО́ХАЦЬ, *дзеясл.* Перапалохаць. *А няхай ты згары, як ты мяне перапалохаў: я ж падумаў ліха ведае што.* Вітрунь Касцюк.

ПЕРАПЕ́ЧКА, -і, *ж.* Перапечка. *Пакуль ты хлеб усадзіш, дык перапечку сьпячы ны скыўрадзе.* Арцёмаўка Міласл. *Узіла цеста ад хлеба ды ны скывародкі сьпікла перапечку.* Касцюковічы Крыч. *Паспрабуй-ка мае перапечкі, ці смашныя.* Студзянец Касцюк.

ПЕРАПЛА́ЎНЫЯ СЕРАДА́. Серада на чацвёртым тыдні пасля вялікадня. *Да пераплаўнай серады купацца ня можна — выда яшчэ халодныя.* Мсціслаў.

ПЕРАПЫНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Перапыніць, запыніць. *Дзядзька, перапыні маю карову, ато ўцякець у лес.* Касцюшкавічы Крыч.

ПЕРАПЫЯ́СЫЦЬ, *дзеясл.* Перапаясаць, перавіць поясам. *Мылыдня ўсё неба перапыясыла.* Барысавічы Клім.

ПЕРАСТА́ЦЬ, *дзеясл.* Перастаць, пакінуць. *Перастань мяне тармасіць.* Беразяк Краснап. *Скажы яму, каб перастаў боўкаць, ато нічога ня чутна.* Касцюшкавічы. *Ды перастань ты ўжо версьць, ато нялюба слухаць.* Пячоры Касцюк.

ПЕРАСЫПА́ЦЦА, *дзеясл.* Перасыпацца. *Там нада стыяць каму атгарнываць, ато яна ўсё цераз край перасыпаецца.* Пірагова Мсцісл.

ПЕРАТО́ЧКА, -і, *ж.* Гадавалая авечка. *Сваіх ператочак мы ўжо пыабстрыгалі.* Барысавічы Клім.

ПЕ́РВА, *прысл.* Перш, раней, спачатку. *Перва быў дождж, а січас рыспагодзілась.* Хоцімск. *Перва пасеім тут, а тады паедзім ны дальнію пыласу.* Бяседавічы Хоцім.

ПЕ́РВЕ, *прысл.* [Перш], спачатку. *Перве былі скокі, а ў канцы, як перапіліся, дык пычалі лаяцца. Хацеў я перве атгукнуцца, а тады думаю — не, пыляжу лепш ціха.* Пірагова Мсцісл.

ПЕ́РВЫЙ, *прым.* Першы. *Я прышоў двору ў палуныч, як первыя пітухі пелі.* Бяседавічы Хоцім.

ПЕРЕБІ́РЛІВЫЙ, *прым.* Пераборлівы. *Хвёдыр ны яду не перебірлівый: есьць, што дасі.* Гібалы Касцюк.

ПЕ́РЕВЕЗЕНЬ, -зня, *м.* Перавясла. *Круці таўшчэйшыя перевезьні, ато салома ня крепкыя — рвуцца.* Краснаполле.

ПЕРЕСТА́НЬНЯ, -я, *н.* Перарыў, спынэнне. *Дождж ідзе ўвесь дзень без перестаньня.* Гібалы Касцюк.

ПЕРЕСУ́НУЦЬ, *дзеясл.* Перасунуць. *Дывай-ка пересунім скрыню на другоя места.* Дубеец Касцюк.

ПЕ́РІВІЗІНЬ, -зьня, *м.* Перавясла. *Дзелый таўшчэй перівізьні і крепчы зьвязывай снапы.* Бяседавічы Хоцім.

ПЕ́РІВІЗЬ, -і, *ж.* Перавясла. *Дзелыйця вы, бабы, кряпчэй перівізь і вяжыця тужэй снапы, ато як возьмеш у рукі сноп, дык ён і раз'едзіцца.* Арцёмаўка Міласл.

ПЕРНА́Т, -а, *м.* Пярына. *Ні хачу я спаць ны сяньніку, дайця мне пернат, ды з аднаго гусінага пер'я.* Ушакі Чэрык.

ПЕ́РНІК, -а, *м.* Пернік, печаныя на мёдзе пышкі. *Купім мы пшынічнай мукі— мёд у нас ёсьць — ды сьпяком самі пернік, будзіць, як куплёны.* Ушакі Чэрык.

ПЕ́РСЬЦЕНЬ, -я, *м.* Персцень. *Надзеў ны палец персьцень, а нызад і ні здыміць— хоць ты палец адсікай.* Рэкта Калінінпічына. *Дзяўчына надзела ны палец персьцень.* Ганнаўка Клім.

ПЕ́РСЬЦІ, -яў, *мн. л.* Персні, грудзі ў каня. *Здаровый конь, персьці шырокія.* Хвёдараўка Краснап. *Пупала нешта пыд хамут ці што — конь персьці пупсуваў.* Бабровічы Раснян.

ПЕ́РСЬЦІНЬ, -я, *м.* 1. Персцень. *У яе быў персьцінь з красным кумушком, дык іна яго пыціряла.* Арцёмаўка Краснап. *Мал мне твой персьцінь.* Бялішчына Мсцісл. 2. Гульня ў персцень. *Персьцінь — вясёлыя гульня.* Шарэйкі Касцюк.

ПЕ́РСЬЦЬ, -і, *ж.* Персні [грудзі ў каня]. *Як калоў кыня кыналуп, дык ён шылым кыня сперідзі ў персьць, бліжы к наге, як даў, дык конь і лёг — знаць пряма ў серца.* Арцёмаўка Міласл.

ПЕ́РЦА, *дзеясл.* Ціснуцца, пхнуцца. *Лезуць усі ў хату, ціснуцца, а там ужу перца німа куды — цэлыя хата народу.* Арцёмаўка Міласл.

ПЕ́РШ, *прысл.* Перш [спярша, спачатку]. *Перш памыў бы рукі, тады браўся б за хлеб!* Ушакі Чэрык.

ПЕ́РША, *прысл.* Перш [спярша, спачатку], раней. *Зайграйця перша вы, а потым будзем мы йграць.* Хвёдараўка Краснап. *Перша я прішоў, а пысьля ён.* Арцёмаўка Міласл.

ПЕРША́К, -а, *м.* Першы гатунак. *Сымагон першак.* Хвёдараўка Краснап. *Як хапіў першака целый стыкан, дык другей дзень ляжыць п'яный: прасьпіцца, а потым як вып'ець вады, дык і зноў пьяный.* Забычание Касцюк.

ПЕ́РШЫЙ, *прым.* Першы. *Ён стыяў ад краю самы першы, дык яму й пупала.* Старае Сяло Мсцісл. *Першы сноп нясуць двору і ставяць на кут.* Дзеражна Касцюк. *Свату першыя чарка, першыя й палка.* Юркаўка Чэрык.

ПЕРЫВА́ГА, -і, *ж.* Перавага. *Каго больш, у таго й перывага.* Парадзіна Мсцісл.

ПЕРЫНЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Пераняць. *Перыняў усі яго манеры.* Сохана Мсцісл.

ПЕРЯЙЦІ́, *дзеясл.* Перайсці. *Іван перяшоў чэріз ряку.* Гібалы Касцюк.

ПЕ́СІНКА, -і, *ж.* Памянш. ад песня. *Рана ўстаець, песінкі пяець, голыс пыдаець.* Меншая Багацькаўка Мсцісл. *Ладныю песінку я ведый, ды толькі забый.* Новы Дздзін Мсцісл.

ПЕ́СІНЬНІК, -а, *м.* Песеннік, зборнік песень. *Мне песіньнік пыдарілі, дык у ім такея песьні інцірэсныя ды многа — тоўстыя тыкая кніжка.* Арцёмаўка Міласл.

ПЕ́СТАВАЦЬ, *дзеясл.* Пеставаць. *Мяне бацька дужа пеставаў змалку.* Галоўчыцы Калінінщчына.

ПЕСТУН, -а, *м.* Пястун, дзіця, якое ўсе пестуюць. *Твой дзіцёнык пестун.* Гарбавічы Касцюк. *Пестун — яму ўсе лепшынькыя пыдай.* Маластоўка Краснап.

ПЕ́СТЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Пеставаць. *Ні варта ўжо дужа пестывыць дзіцёнка.* Слаўнае Мсцісл.

ПЕ́СЬНЯ, -і, *ж.* Песня. *З песьні слова ня выкінеш. Хлопцы з дзеўкымі пяюць песьні.* Шэвялёўшчына Мсцісл.

ПЕСЬНЯ́Р, -а, *м.* Спявак. *Во ён любіць пець — гэта ж песьняр на ўсю дзяреўню.* Ушакі Чэрык.

ПЕ́СЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Песціць. *Салоха песьціць сваю Кыцярінку. Зьвесна, адна іна ў яе.* Шумячы. *Адзін у іх сын, ды надта песьцяць ужо.* Маластоўка Краснап.

ПЕ́ТАВАЦЬ, *дзеясл.* Петаваць, біць. *Хлопцы Янку сёньня так петавалі, што крый бог.* Пячонкі Раснян. *Бацька петаваў Міхася за тое, што ні хацеў пасьціць авец.* Маляцічы Крыч.

ПЕ́ТУН, -а, *м.* Абжора. *Петун — паеў ўсю бульбу і мне ні зыставіў.* Хвёдараўка Краснап.

ПЕ́ТЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Петаваць, біць. *Петывыў ён яго кажный дзень, чуць ні забіў.* Палуж Краснап.

ПЕ́ЎНЯ, *прысл.* Пэўна, напэўна. *Пеўня, што будзіць з рэшыта асевык.* Гарбавічы Касцюк. *Ён, пеўня, ні прыдзець сяньні — дужа гразка.* Жалезніца Чэрык.

ПЕ́ЎНЫЙ, *прым.* Пэўны, сталы. *У етым дзеле німа пеўныга зарыбытку.* Гібалы Касцюк.

ПЕЦЬ, *дзеясл.* Спяваць, пець. *Як пычане пець, дык аж серца заходзіцца — так ладна пяе.* Парадзіна Мсцісл.

ПЕЧ, *дзеясл.* Пячы, смажыць. *Рыскалі хлопцы цяпло і сталі бульбу печ.* Сохана Мсцісл. *Дывай наловім ракаў ды будзем печ.* Куляшоўка Клім.

ПЕЧ, -ы, *ж.* Печ. *Я ў яго склаў печ і грубку, а ён ня хочыць мне зыплаціць.* Палуж Краснап. *Дровы жарка гырапь у печы.* Машавая Бялынкав. *Ганчурка выляецца кыля печы.* Малюшын Краснап.

ПЕЧАНЦЫ́, -оў, *мн. л.* Печань, вантробы наогул. *Упаў зь яблыні і адбіў сабе печанцы — хто ведае, ці жыў зыстанецца.* Палуж Краснап.

ПЕ́ЧКА, -і, *ж.* Печ. *Мылако у печкі ўжо стапілысь, яго пыра вынуць, ато будзіць дужа красна.* Арцёмаўка Міласл.

ПЕ́ЧЫНЬ, -і, *м.* Печань. *Сяньня матка зварілa каройській печынь.* Бяседавічы Хоцім.

ПЕ́ШКІ, *прысл.* Пешкі, пешаходам. *Пайшоў туды пешкі, а ныэад прыехыў зь дзядзькым.* Палуж Краснап. *Раньшы архірэй езьдзіў у карэці, а січас пешкі ходзіць.* Куравічы Мсцісл.

ПЕ́ШНЯ, -і, *ж.* Пешня, долата з доўгім чаранком для выбірання паза ў шулах. *Бяры пешню ды выдзелывай шпар у шуле.* Цівецкая Краснап. *Надта ўжо сукуватыя шула, пешня ні бярэць хуць што хош.* Вербеж Чэрык.

ПЕ́ШЫЙ, *прым.* Пешы, пешаходны. *Пешый конныга ні здагоня.* Палуж Краснап.

ПІ́ВА, -а, *н.* Піва. *Ны свадзьбі выпілі целый бачонык піва.* Слаўнае Мсцісл. *Зайдзем у піўную, вып'ем па кухлю піва.* Крычаў.

ПІДЖА́К, -ка́, *м.* Пінжак. *Я купіў сабе новый піджак.* Журбін Бялынкав. *Сьціпан і Васіль пашылі сабе аднакывыя піджакі.* Мазалава Мсцісл.

ПІ́ЖМА, -ы, *ж. бат.* Піжма. *Піжма цьвіцець жоўтым цьветым.* Хвёдараўка Краснап.

ПІ́КА, -і, *ж.* 1. Піка. *Ехалі кызакі, а ў іх доўгія пікі.* Шарэйкі Касцюк. 2. Пікі (масць у картах). *У калодзі карт чатыры масьці: бубна, чэрва, піка і трефа.* Бяседавічы Хоцім.

ПІКАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Пекануць. *Ускочыў у крапіву, а іна як піканець мяне, дык во якея пузыры паўскочылі.* Балакеры Мсцісл. 2. Моцна выцяць. *Атайдзі, ато як пікану пугай, то будзеш ведаць, які смак.* Залесавічы Крыч.

ПІ́КНУЦЬ, *дзеясл.* Пікнуць, піснуць. *Целый дзень маўчыць і пікнуць ня сьмеіць.* Бяседавічы Хоцім. *Як даў яму пы гылаве, дык ён ані пікнуў.* Хвёдараўка Краснап. *Маўчы, ані пікні, каб і духу твайго ні чутна было.* Палуж Краснап.

ПІКО́ВЫЙ, *прым.* Піковы. *Бубновый валет піковыю дзісятку ня б'ець.* Бяседавічы Хоцім.

ПІЛА́, -ы, *ж.* Піла. *Піла тупая, ня рэжыць.* Негін Касцюк. *У етый піле малэй рызварот.* Хвёдараўка Краснап.

ПІЛАВІ́НЫ, -н, *мн. л.* Пілавіны [апілкі]. *Дровы резылі, дык пілавінымі я сабе вока зыпарушыў.* Вародзькава Крыч. *Ідзі прынясі пілавін пасыпаць ны падлогу.* Мсціслаў.

ПІЛЁХАЦЦА, *дзеясл.* Пялёхацца, пляскацца ў вадзе. *Бачыш, як пілёхаіцца, ажны брызкі на міне ліцяць.* Ушакі Чэрык.

ПІЛІП, -а, *м.* Уласнае імя Піліп. *Ня слухай, што табе гаворя Піліп: ці ты ня ведыіш, якей ён?* Палуж Краснап.

ПІЛІПІХА, -і, *ж.* Піліпіха, жонка Піліпа. *Схадзі ты, Зосічка, ды старое Піліпіхі — іна зыгавор ат зьмяіныга ўкусу ведыіць, дык зыгаворя і прайдзець.* Залесавічы Крыч.

ПІЛІПКА, -а, *м.* Памянш. ад Піліп. *Піліпка зьбегый ты гукні дзядзьку, хай прыдзець, скорынька.* Глупікі Крыч.

ПІЛІПЫЎКА, -і, *ж.* Піліпаўка, пост перад калядамі. *Усю піліпыўку нішчымніцу цярпелі, нават алею і таго ні было.* Восаў Краснап.

ПІЛІСКУВАЦЦА, *дзеясл.* Зіхацець яркімі колерамі. *Шоўкавыя хустка піліскуецца на сонцы.* Куляшоўка Клім.

ПІЛНА, *прысл.* Пільна. *Яму пілна нада было ў горыд, дык ён ня гледзя на тоя, што сонца ужу садзілысь, пашоў.* Арцёмаўка Міласл.

ПІЛНАВАЦЬ, *дзеясл.* Пільнаваць, вартаваць. *Лясьнік цяпер штодзённа ходзіць лес пілнаваць.* Сохана Мсціс л.

ПІЛЫВАЦЬ, *дзеясл.* Пілаваць. *Пільшчыкі прышлі к нам дошкі пілываць.* Сохана Мсцісл.

ПІЛЬНА, *прысл.* 1. Пільна, крайне неабходна. *Ідзе ён? Мне ж яго пільна нада.* Старае Сяло Мсцісл. 2. Шчыра [старанна]. *Пільна ўзяўся зы работу.* Гібалы Касцюк.

ПІЛЬНУВАЦЬ, *дзеясл.* 1. Пільнаваць. *Чаму ні хочыш пільнуваць сад, дам яблыкаў.* Ушакі Чэрык. *Ідзі-ка пільнуй коні, каб ні пызаходзілі ў шкоду.* Кокатава Мсцісл. 2. Старацца, дружна працаваць. *Калі папільнуім, дык можа к вечыру дажнём.* Гібалы Касцюк.

ПІЛЬШЧЫК, -а, *м.* [Пільшчык], чалавек, што пілуе дрэва. *Пільшчыкі прышлі к нам пілываць дошкі.* Сохана Мсцісл.

ПІЛЯНІЦА, -ы, *ж.* Белы хлеб. *Ныпяклі піляніц поўныя рэшыта.* Куляшоўка Клім.

ПІЛЯСЫЙ, *прым.* Папялясы. *Нашу пілясыю курічку каршун схапіў.* Серчыцы Краснап.

ПІНДЖАК, -а, *м.* Пінжак. *Хлопец надзеў новый пінджак.* Машавая Бялынкав. *Янка, надзень пінджак, ня йдзі ў аднэй рубашкі, ато будзе халаднавата.* Новыя Капачы Мсцісл.

ПІНДЖАЧОК, -чка, *м.* Памянш. ад пінджак. *Крепкій хлопіц быў: бывала ў адном пінджачку цэлыю зіму ходзіць, і ніякыя хвароба яго ні бярэць.* Бяседавічы Хоцім.

ПІНЖАК, -а, *м.* Пінжак. *Ён пашыў сабе ня сьвітку, а пінжак; бяз зборык ззадзі і біз поіса і з быртамі.* Арцёмаўка Міласл.

ПІНУШКІ, -шок, *мн. л.* Пачаткі росту пер'я ў птушак. *Птушанёнык быў у пушку, а тады пінушкі пычалі росьць.* Хвёдараўка Краснап.

ПІНЬКА, -і, *ж.* [Пянька], валакно канапель. *А йдзе тут пінька прыдаецца, нада купіць пуды два ны здачу налогу.* Мсціслаў. *Пянькі сёліта ў мяне мала, на прыдналог ні хопіць.* Бяседавічы Хоцім.

ПІНЬКАМОЧЧА, -а, *н.* Месца, дзе мочаць каноплі. *У пінькамочча выда закісла, і рыба ўсплыла наверьх.* Бяседавічы Хоцім.

ПІНЬКУЧЫ, -оў, *мн. л.* Лапці, падплеценыя вяроўкамі. *Пінькучы даўжэй носюцца і цяплей ныгам у іх.* Хвёдараўка Краснап.

ПІНЯЦЦА, *дзеясл.* 1. Скардзіцца, злавацца. *Ні піняйся ны мяне, німа за што.* Маластоўка Краснап. 2. Папікаць. *Піняцца хлебум пычаў, пыжалеў, што даў калі кувалык.* Шумячы.

ПІНЯЦЬ, *дзеясл.* 1. Злаваць. *Ні піняй ны яго, малы йшчэ ён, ні разумеіць.* Бардзіч Краснап. 2. Папікаць. *Ні нада было дываць, калі думыў пінять.* Кокатава Мсцісл. *Ты ж сам раней згадзіўся, а цяперь піняіш на другіх.* Дубеец Касцюк.

ПІПКА, -і, *ж.* Люлька. *Ета дзедыва піпка, ні чыпай.* Стары Дзедзін Міласл. *Дай мне свае піпкі пакурыць.* Пячонкі Раснян. *Дзед насыпаў у піпку тыбакі і стаў курыць.* Сохана Мсцісл. *Дыстывай-ка піпку ды тыбаку — закурім.* Касцюковічы.

ПІПКЫЛА, -а, *м.* Курэц, што не выпускае з зубоў люлькі. *Ды пакінь ты сваю піпку хуць ны часіну! Во ужу піпкыла, дыму напусціў — ні дыхнуць.* Серчыцы Краснап.

ПІРАБАРСЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Перабарсываць, зацягваць у лапці [новыя] аборы. *Узяўся пірабарсывыць лапці, калі йіціць нада.* Хвёдараўка Краснап.

ПІРАБІРЛІВЫЙ, *прым.* Пераборлівы. *Пірабірлівый ты дужа, шмат пірабіраеш: тая нікрасівыя, а тая ні ўмеіць работыць, ні найдзеш ды ўспадобы.* Кокатава Мсцісл. *Наша карова тыкая пірабірлівыя, абы якога пойла ня возьме і ў рот.* Парадзіна Мсцісл.

ПІРАВОДЗІНА, -ы, *ж.* Бэлька. *Ета брайно пойдзя на піраводзіну ў хату.* Хвёдараўка Краснап.

ПІРАВЯРНУЦЬ, *дзеясл.* Перавярнуць. *Піравярні ты вядро дыгары ныгамі — хай сохніць.* Ушакі Чэрык.

ПІРАДЗЕЛЫЦЬ, *дзеясл.* Перарабіць, пераіначыць. *Калі ўдаўся нарт, дык яго трудна перадзелыць.* Кокатава Мсцісл.

ПІРАДОК, -дка, *м.* Перадок, пара пярэдніх колаў з воссю. *Калі б даў хто-нібудзь пірадок, тады б паехалі ны сваіх калёсых.* Татаркавічы Мсцісл.

ПІРАЖКІ, -оў, *мн. л.* Ражкі, паражонае спорамі [галаўні] зерне. *Піражкоў дзеці наеліся, дык жыватамі кычаюцца.* Брылёўка Краснап.

ПІРАЖОК, -жка, *м.* Памянш. ад пірог. *Піражок выйшаў ладный, румяніńкій.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ПІРАНЕСЬЦЬ, *дзеясл.* 1. Перанесці. *Нада піранесьць жыта ў пуню.* Асавец Крыч. 2. Пражыць. *Дзед мой ны сваіх плячох усю паншчыну піранёс.* Добрае Мсцісл.

ПІРАПСЮРЫЦЬ, *дзеясл.* Выцяць зняхэўку. *Ты б яго так пірапсюрыў, каб ён ногі павалок.* Дуброўка Арш.

ПІРАПУЖАЦЦА, *дзеясл.* Перапужацца [перапалохацца]. *Пірапужайся я сяньні на ўмор.* Хвёдараўка Краснап.

ПІРАПУЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Перапужаць [перапалохаць]. *А багдай бы цябе чэрці ўзялі — во піралужай!* Ушакі Чэрык.

ПІРАРЭ́З, -а, *м.* Засек, месца для ссыпкі зерня. *Жыта нада ссыпаць у пірарэз.* Хвёдараўка Краснап.

ПІРАСКО́ЧКА, -і, *ж. бат.* Расліна, падобная да маленькай сасновай раскрытай шышкі, расце на пяску. *Ны кладыўі ны магілкых растуць піраскочкі.* Хвёдараўка Краснап.

ПІРАСЛУ́ХАЦЬ, *дзеясл.* Праслухаць. *Сыбраліс бабы, як пычалі зюкню пры авечак, каровак — ды дзе там іх пірaслухаіш!* Ушакі Чэрык.

ПІРАСТА́ЦЬ, *дзеясл.* Перастаць, сціхнуць. *Хворі паліц ат холыду зыбалей, але адхукыла, дык хутка пірастаў.* Ушакі Чэрык.

ПІРАСЫ́ПАЦЬ, *дзеясл.* Перасыпаць. *Ні кладзі так яец у лубку, бо паб'юцца; іх нада мякінаю пірасыпаць.* Парадзіна Мсцісл.

ПІРАТО́ЧКА, -і, *ж.* Гадавалая авечка. *На зіму ў нас зысталося ўсяго тры вечкі і піраточка.* Паходавічы Чэрык.

ПІРАХО́Д, -у, *м.* Пераход. *Трэба абхадзіць гэта балота, бо піраходу тут німа.* Сохана Мсцісл.

ПІРА́ЦЫЯ, -ы, *ж.* Аперацыя. *Дохтыр скызаў, што яму нада дзелыць пірацыю.* Тур'я Краснап.

ПІРАШЫ́ХЫЦЦА, *дзеясл.* Перагаварыцца цішком, сакрэтна. *Пірашыхыліс паміж собку, ды тады і йдуць к нам.* Кокатава Мсцісл.

ПІРІБІРА́ЦЦА, *дзеясл.* Перабірацца. *Яны ў новую хату пірібіраюцца, дык улазіны спраўляюць, і нас звалі.* Арцёмаўка Міласл.

ПІРІБІРА́ЦЬ, *дзеясл.* Перабіраць, выбіраць. *Надта ты ўжу, хлопча, дзеўкымі пірібіраіш; глядзі, штоб табе ніжынатыму ні зыстацца.* Журбін Бялынкав.

ПІРІБРА́ЦЦА, *дзеясл.* Перабрацца. *Тэй, уцёкшый з тюрьмы, зы граніцу, верна, пірібраўся.* Арцёмаўка Міласл.

ПІРІБРА́ЦЬ, *дзеясл.* Перабраць. *Бульбу нада пірібрацць, ато як ссыпылі яе разым, так і ляжыць па сей дзень.* Зоры Чэрык.

ПІРІВІЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Перавязаць. *Нада мне сваю нагу пірівізаць, ато ні дайду двору.* Касцюшкавічы Крыч. *Пірівяжы там ніты, ато во ат'іжджаюць ніткі.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРІГАВО́РЫ, -аў, *мн. л.* Перагаворы. *Былі ў нас з ім пірігаворы, ды мы яшчэ ні на чом ні сайшліс.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРІГА́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Перапсаваць. *Нашто ты столька сена каню нываліў, ён жа яго ня зьесьць, а толькі пірігадзіць.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРІГУВА́РІВЫЦЦА, *дзеясл.* [Перагаворвацца], гаварыць. *Дакуль вы там будзіця пірігуварівыцца? Пыскарей, ато ўжо конь даўно запряжын, двору нада ехыць.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРІІЖЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Пераязджаць. *Яны скора будуць высіляцца зь етый хаты, будуць піріїжжаць на хутыр.* Арцёмаўка Міласл.

ПІРІЙМА́ЛЬНІЦА, -ы, *ж.* Пераймальніца. *Піріймальніца ты: толькі увідзіла новыю кохту — ураз і сабе пашыла такую.* Бардзіч Краснап.

ПІРІЙМА́Ч, -а, *м.* Пераймальнік. *Ён харошый піріймач: як увідзіць, што хто зьдзелыіць, дык січас жа піряймець і сабе ета зьдзелыіць.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРІКРІЖО́ВЫНЫЙ, *прым.* Перакрэслены. *А пычаму на пулустанку сімафор палычкамі пірікріжовыный? Тут астаноўкі паіздам нет.* Бардзіч Краснап.

ПІРІКРІЖУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Перакрэсліць. *Маю зыяву прідціdаціль пірікріжуваў і нызад выряціў.* Мсціслаў.

ПІРІКРЯ́СКА, -і, *ж.* Перафарбоўка. *Мыя кохта павыцьвіла, нада ў пірікряску атдаць.* Краснаполле.

ПІРІКРЯ́СІЦЬ, *дзеясл.* Перафарбаваць.. *Вясной нада будзіць рямы ў вокных пірікрясіць у зілёныю кряску.* Шумячы.

ПІРІКУЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Перакуліцца. *На етым чаўне можна пірікуліцца і на дно пайсьці.* Самацевічы Касцюк.

ПІРІЛІЦУВА́НЫ, *прым.* Пераліцаваны, перавернуты на другі бок. *Ета спадніца ужу пірілііцувана, я яе йшчэ летысь пірялшыла на другей бок.* Арцёмаўка Міласл.

ПІРІЛІЦУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Пераліцаваць, перавярнуць на другі бок. *Я свой пінжак думыю пірілііцуваць — будзіць, як новэй.* Горкі Краснап.

ПІРІЛІЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Пералічыць. *Нада грошы пірілічыць: кажыцца, мне ні-дыдалі пуўсотні.* Серчыцы Краснап.

ПІРІЛІЧЭ́НЬНЯ, -я, *н.* Пераўлік. *Кыпіряціў закрытый — пірілічэньня ужу трі дні ідзець, выйуляюць ніхватку.* Краснаполле.

ПІРІМА́НІВЫЦЬ, *дзеясл.* Пераваблі-ваць. *Даректар лучшых учыцілій ды сябе з другіх школ пірманівыя.* Мсціслаў.

ПІРІМУДРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Перахітрыць, абдурыць. *Мне ўсё такі удалось яго пірімудрыць — я ўзяў тое, што хацеў.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРІМЫГА́НЬНЯ, -я, *н.* Перамога. *Пірімыганьня асталысь за імі.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРІНІМА́ЦЬ, *дзеясл.* Пераймаць. *Ты ўсё пірінімаіш, як тая заморскыя кікімора, штоб я ня зьдзелыў, плахоя ці харошыя.* Слаўнае Мсцісл.

ПІРІНЫЧУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Перанача-ваць. *Прышоў к нам нейкій пыдарожный і просіцца пірінычуваць.* Палуж Краснап.

ПІРІПА́РХУВЫЦЬ, *дзеясл.* [Пераскок-ваць], пералятаць. *Птушка піріпархувыя зь веткі на ветку.* Палуж Краснап.

ПІРІПА́ХЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Переворваць. *Заўтрі паедзім кардохлі піріпахывыць — мо ныызбіраем пуды са тры.* Арцёмаўка Міласл.

ПІРІПА́ШКА, -і, *ж.* Бульба, сабраная пасля пераворвання бульбянішча. *Мы ўжу выкыпалі кардохлі і пы скырадзьбе сыбралі. Заўтрі будзім піріпахывыць. Піріпашку прідзіцца аддзельна ссыпаць, ато іна коййдзе марожыныя, дык гніць пычанець.* Арцёмаўка Міласл.

ПІРІПЫЯЦЬ, *дзеясл.* Пералітаваць [перапаяць]. *Бляхырь зыпыяў два вядры і січас жа прішлось пірiпыяць, пытаму што яны ні пірісталі цеч.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРІПЯЛЁСЫЙ, *прым.* Перапялёсы [рабы]. *Ці ні бег тут пырасёнык піріпялёсый, белый с чорным?* Бяседавічы Хоцім.

ПІРІРВАНЫЙ, *прым.* Перарваны. *Што ты мне дыла пірірваныю нітку?* Гібалы Касцюк.

ПІРІРВАЦЦА, *дзеясл.* Перарвацца. *Я толькá зымахнуўсь пугыю, дык мочка пірірвалысь, і пуга некуды пыляцела.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРІСІКАЦЬ, *дзеясл.* [Перасякаць], перацінаць. *Всі етыя дровы нада пірісікаць на дзве, ато так у печку ня ўлезуць.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРІСКАЧЫЦЬ, *дзеясл.* Перяскочыць. *У адзін мах я пірiскачыў речку.* Слаўнае Мсцісл.

ПІРІСТАВІЦЬ, *дзеясл.* Переставіць, перанесці на другое месца. *Нада етый мех піріставіць вунь туды, к сьцяне, ато тут ён замінаець.* Негін Касцюк.

ПІРІСТАНОВА, -ы, *ж.* Перамена пастановы. *Учіря была 'дна пыстанова, а сяньні ужу пірістанова ёсьць.* Мсціслаў.

ПІРІСТАНОЎКА, -і, *ж.* Перастаноўка, перанос на другое месца. *Пірістаноўка аднэй хаты ў сто рублёў абайдзецца.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРІСТАЦЬ, *дзеясл.* Перастаць, пакінуць. *Пірістань хустку цігаць, ато ўсі махры пыбырвала.* Добрае Мсцісл. *Пірістань ты ўжо майстріць, лажысь спаць, а заўтрі закончыш свой сундук.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРІСТЫВАЦЬ, *дзеясл.* Пераставаць, спыняцца. *Як ныйшла туча, дык гром і мылыдня ні пірiстывалі ні на 'дну мінутку.* Слаўнае Мсцісл.

ПІРІЦАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Перацадзіць. *Іна пыдаіла карову і пірiцадзіла мылако ў гырлач.* Арцёмаўка Міласл.

ПІРЫД, *прыназ.* Перад. *Абязьверыўся ты пірыд усімі — ніхто ні хоча табе пазычыць.* Сохана Мсцісл. *І як яму ні ўстыдна пірыд табою?* Дубровіцы Клім.

ПІРЫДАЦЬ, *дзеясл.* Перадаць. *На, пірыдай ета ў прызідзіум.* Мсціслаў.

ПІРЫДНІВАЦЬ, *дзеясл.* Пераднаваць, перабыць дзень. *Гылярка павёз дохтыршу ў Чэрыкаў і там пірыднівай.* Маластоўка Краснап.

ПІРЫЖАБІЦЦА, *дзеясл.* Перагнуцца. *Абруч пірыжабіўся ў адным месьці, каб, часым, ні лопнуў.* Хвёдараўка Краснап.

ПІРЫІНАЧЫЦЬ, *дзеясл.* Пераінакшыць. *Ён заўсёды нідбала адносіцца ды працы, ні пірыіначыш яго.* Добрае Мсцісл.

ПІРЫКАЛЕЦЬ, *дзеясл.* Перакалець, перамерзнуць. *Я пірыкалеў — цэльнінькі дзень быў ны марозі.* Хвёдараўка Краснап.

ПІРЫКУВЫРНУЦЦА, *дзеясл.* Перакуліцца. *Пірыкувырнуўсь уніз гылавой.* Хвёдараўка Краснап.

ПІРЫКЫЛЯКЫЦЬ, *дзеясл.* Пережыць, перамадзецъ. *Як-нібудзь год етый пірыкылякыіш.* Хвёдараўка Краснап.

ПІРЫНЯСЬЦІ [піранесьць], *дзеясл.* Перанесці, перацярпець. *Мне так боляча збілыся, як ён мяне ўкалоў, чуць пірынісла.* Добрае Мсцісл.

ПІРЫПУЖАЦЦА, *дзеясл.* Перапужацца. *Я сяньня дужа пірыпужаўся.* Кокатава Мсцісл.

ПІРЫСТЫНАЎЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Перастаўляць. *Узяўся проці ночы пірыстынаўлівыць етый посуд, як бы дня ні будзіць.* Палуж Краснап.

ПІРЫШЧАПІЦЬ, *дзеясл.* Перашчапіць, прышчапіць нанава. *Прышчапіў я яблыню, ды ні прынілася, нада будзіць пірішчапіць наньва.* Лешчынка Мсцісл.

ПІРЯБІРЛІВЫЙ, *прым.* Пераборлівы. *Мой конь ны яду дужа пірябірлів: абы чаго есьць ні будзіць.* Палуж Краснап.

ПІРЯБОРНІК, -а, *м.* Пераборлівы чалавек. *Ой, якей жа ты пірябoрнік — усё ні пы табе.* Шэвялёўшчына Мсцісл.

ПІРЯБОРНІЧЫК, -чка, *м.* Памяншч. ад пірябoрнік. *Пірябoрнічык месічык ‖ Пірібіраіць зорькымі.* З нар. песні, М. Г. 22.

ПІРЯБОРЫ, -ыў, *мн. л.* Пераборы. *Во ўжо пірябoры етыя, ідзі — хто бярэ, ато ў дзеўках зьвякуіш.* Парадзіна Мсцісл.

ПІРЯБРІХАЦЬ, *дзеясл.* Перабрахаць, перагаварыць усіх. *Бабу ніхто ні пірябрешыць: ік пычанець, ік пычанець — хуць вушы зыткай.* Бардзіч Краснап.

ПІРЯВЕРНУТЫЙ, *прым.* Перавернуты. *Кыла хаты стыяў бачоньк, пірявернутый дыгары дном, дык іна пыдвярнула пыд яго куріцу.* Арцёмаўка Міласл.

ПІРЯВЕСЬЦЬ, *дзеясл.* Перацягнуць, выцяць. *Пірявёў яго разы сы два пугый.* Хвёдараўка Краснап.

ПІРЯД, *прыназ.* Перад. *Піряд цёлым карову нада адцырківаць.* Старае Сяло Мсцісл. *Піряд етым днём паехылі мы ў Амсьціслаў.* Пірагова Мсцісл.

ПІРЯДЗЕЛЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Перарабляць. *Шлёмка пашыў боты ды так ніўдала, што найзноў трэба пірядзелывыць.* Палуж Краснап.

ПІРЯДЗЕРЖЫНЫЙ, *прым.* Перадзержаны. *Хлеб пірядзержыный — дужа крышыцца і нісмашный.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРЯДЗЬВІНУЦЬ, *дзеясл.* Перасунуць. *У кыня шлія зьехыла набык, дык ён хацеў пугаўём пірядзьвінуць на хрібет, а конь упудзіўся ды панёс — чуць калёсы ні разьбіў.* Арцёмаўка Міласл.

ПІРЯДОК, -дкá, *м.* Передок, пярэднія калёсы з воссю і аглоблямі. *Вазьмі пірядок ат етых калёс і прістаў к другім.* Хвёдараўка Краснап.

ПІРЯДОЎКА, -і, *ж.* Вяроўка, якою ўвязваецца перад воза. *Пусьці даўжэй пірядоўку, ато воз пылажыў вялікій, а пірядоўка каротка.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРЯЕХЫЦЬ, *дзеясл.* Пераехаць. *Як тут піряехыць з возум ціряз етую пытапечу?* Стары Дзедзін Міласл.

ПІРЯЕЧЫЦЬ, *дзеясл.* Пеpажаваць, пераглуміць. *Каровы корм толькі піряечылі — усё пад ногі павыкінулі.* Серчыцы Краснап.

ПІРЯЗІМЫК, -мка, *м.* Пярэзімак. *Бычок-пірязімык прыдаецца.* Горкі Хоцім.

ПІРЯЗІМЫЧКА, -і, *ж.* Пярэзімак. *Дам табе сьвінку-пірязімычку.* Палуж Краснап.

ПІРЯЙЦІ, *дзеясл.* Перайсці. *Пятрок ягліць піряйці на хутыр.* Слаўнае Мсціcл. *Броцькі піряйшоў рэчку.* Палуж Краснап.

ПІРЯКІНУЦЦА, *дзеясл.* [Перакінуцца], памерці. *Хомка пірякінуўся — пакінуў жонку з малымі дзецьмі.* Хвёдараўка Краснап.

ПІРЯКІНУЦЬ, *дзеясл.* Перакінуць. *Як кінуў мяча, дык і пірякінуў чыріз забор.* Арцёмаўка Міласл. *Пірякінь кумушок ціряз ету бярезіну.* Брылёўка Краснап.

ПІРЯКОП, -а, *м.* Роў, канава. *Зьдзелый кругом саду пірякоп.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫРЯКРЯСЬЦІЦЦА, *дзеясл.* Перахрысціцца. *Як загрімеў гром, дык стары зьняў шапку і пірякрясьціўся.* Слаўнае Мсціcл.

ПІРЯКСЬЦІЦЦА, *дзеясл.* 1. Перахрысціцца. *Піряксьціцца трэба, як садзісься за стол.* Палуж Краснап. 2. Перамяніць імя. *Я хачу піряксьціцца на іншыя імя.* Слаўнае Мсціcл.

ПІРЯКСЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Перахрысціць, ахрысціць. *Ты павінін піряксьціць свайго дзіцёнка у пупа.* Слаўнае Мсціcл.

ПІРЯКУЛІЦЦА, *дзеясл.* Перакуліцца. *Глядзі во, кулдобіна, ня ўедзь, ато пірякулісьсі з возум.* Касцюковічы.

ПІРЯКУЛЫМ, *прысл.* Пярэкулам [уверх дном, дагары нагамі]. *Пашло ўсё пірякулым, уверьх ныгамі.* Казельская Буда Краснап. *Пірякулым пыляцеў з гарі.* Шумячы.

ПІРЯКУСІЦЬ, *дзеясл.* 1. Перакусіць, перагрызці. *Глядзі на етыга жука: як дасі яму травінку, дык ён, як відзь, перакусіць.* Шарэйкі Касцюк. 2. Перакусіць, з'есці. *Сыбраў шымашыньня конім, ніхай пірякусюць трохі.* Хвёдараўка Краснап.

ПІРЯЛЕЗЬЦЬ, *дзеясл.* Пералезці. *Пірялез ціpыз замёт.* Хвёдараўка Краснап.

ПІРЯЛІК, -а і -у, *м.* Пералік [перападлік]. *Бугальтырь пірялік туваріў у кыпірацівы прізводзіць.* Краснаполле.

ПІРЯЛІЧКА, -і, *ж.* Праверка ліку [пералічванне]. *Калі ён зьдзелыў пірялічку, дык якраз на тры штукі было меньшы.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРЯМЕНКА, -і, *ж.* Перапынак у школе. *Ны піряменцы учынікі паднімаюць такей гармідыр, што хоць з школы уцікай.* Слаўнае Мсціcл.

ПІРЯМОГА, -і, *ж.* Перамога. *Твыя пірямога: у цібя луччы пулучаіцца.* Серчыцы Краснап.

ПІРЯМОТ, -а, *м.* Перамот, памылка пры снаванні красён. *Снуй хырашэнька, глядзі пірямота ня зьдзелый, ато прыдзіцца пысядзець зь ім тады.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРЯМОЧ, *дзеясл.* Перамагчы. *Ён хацеў мяне пірямоч у рабоці.* Слаўнае Мсціcл. *Мы паспорылі, хто здыравей, і сталі боріцца — хто каго піряможыць.* Арцёмаўка Міласл.

ПІРЯМУЧЫЦЦА, *дзеясл.* Перамучыцца, перацярпець. *Штоб толькі нам ету зіму пірямучыцца, а ўвесну будзіць легчы.* Казельская Буда Краснап.

ПІРЯНУЦЬ, *дзеясл.* [Стукнуць], выцяць. *Піряную хлыпца ў хрыбет нізашта, ніпрошта.* Горна Краснап.

ПІРЯПЕЧКА, -і, *ж.* Перапечка. *Я, таічка, спікла пірапечку з цеста, што на хлеб расчыніла.* Хвёдараўка Краснап.

ПІРЯПІС, -а. і -у, *м.* Перапіс. *Як быў піряпіс нысяленьня, дык баба Ріпіна кызала, што канец свету ныстаець.* Тур'я Краснап.

ПІРЯПЛЕЦІНА, -ы, *ж.* 1. Перапляціна, лата. *Піряплёціна зламілась, і я цуць ні пыляцеў са страхі.* Іванаўка Хоцім. 2. Перапалка, непрыемнасць. *Пупаўся ў піряплёціну з етым дзелым.* Хвёдараўка Краснап.

ПІРЯПОЙ, -я і -ю, *м.* Перапой. *Ні чыпай яго: у яго гылыва баліць с піряпою, дзіва — целый дзень піўшы.* Бардзіч Краснап.

ПІРЯПРЫЖКІ, -жык, *мн. л.* Пераскочкі, чахарда. *Дывай гуляць у піряпрыжкі.* Хвёдараўка Краснап.

ПІРЯПУТАЦЦА, *дзеясл.* Заблытацца [пераблытацца], памыліцца. *Ой, піряпутыўся я, ні так скызаў.* Хвёдараўка Краснап.

ПІРЯРЕЗЫЦЬ, *дзеясл.* Перарэзаць, разрэзаць. *Піряреж вяроўку, ато ні рызьвяжыш.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРЯРУБЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Перарублівадь. *Етыя палкі нада пірярублівыць на двоя.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРЯРУБЛІНЫЙ, *прым.* Перарублены, перасечаны. *Пірярублiный шост гадзіцца толькі на дровы.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРЯРЭЖЧЫК, -а, *м.* Засек у свірне. *Ссып ячмень у пірярэжчык.* Хвёдараўка Краснап.

ПІРЯСЕЧ, *дзеясл.* Перасекчы. *Пыдайка тупіцу, нада пірясеч масол, ато так у гаршчок ня лезіць.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРЯСЕЧЫНЫЙ, *прым.* Перасечаны, перацяты. *Етый кол пірясечыный — злымаіцца.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРЯСКОК, -а, *м. заал.* Жук-дрывасек. *Ны калодзі я пыймаў пірясклока.* Хвёдараўка Краснап.

ПІРЯСМУРЫЖЫЦЬ, *дзеясл.* Перацерці, перарэзаць пры дапамозе вяровачкі. *Смурыжу аборкыю бутылку ды ніяк ні пірясмурыжу.* Горкі Краснап.

ПІРЯСОХНУЦЬ, *дзеясл.* Перасохнуць, высахнуць. *У павыдкі греблю прырвала выда, дык цяперь речка пірясохла.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРЯСТОІЦЬ, *дзеясл.* Адстаяць, перастаяць. *Пірястоіла вутрыню, а на 'бедні ні была.* Палуж Краснап.

ПІРЯСУНУЦЬ, *дзеясл.* Перасунуць. *Падсоб, брат, пірясунуць бірвяно на другей бок вуліцы, ато яно тут мішаіць.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРЯТЕРЦА, *дзеясл.* Перацерціся. *На ету вось нада пыдлажіць новую падостку, ато ета савсім пірятёрлась.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРЯТОПЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Ператопліваць, ператапляць. *Ні нада мылыка пірятопліваць, я ні люблю пірятоплiныга.* Іванаўка Хоцім.

ПІРЯТОПЛІНЫЙ, *прым.* Ператоплены. *Ета масла с пірятоплiный сьмітаны.* Арцёмаўка Міласл.

ПІРЯТОПТЫВЫЦЬ, *дзеясл.* [Усё стоптваць], таптаць. *Улезіць у сваіх ботых у па-*

*лісаднік, дык усё толькі пірятоптывыць.* Дзеражна Касцюк.

ПІРЯТОПТАНЫЙ, *прым.* [Ператаптаны], стаптаны. *Лён зыстаўся ня вырвыный на полі, дык цяпер увесь пірятоптыный, пірябітый, што й ні сыбяреш.* Іванаўка Хоцім.

ПІРЯХОДЖВЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Пераходзіць. *Піряходжвыюць ряку ў етым месьці: тут вада будзіць па пельку ў самым глыбокім месьці.* Бардзіч Краснап. 2. Перахадзіць, насіць нейкі час адзенне, абутак. *Дзеці пувырісталі з адзёжы, а новый купіць ня сіла: думыю, што ету зіму піряходжвыюць ніхай, а там пубачым.* Палуж Краснап.

ПІРЯХОДНЫЙ, *прым.* Пераходны. *Прайшоў піряходный пярівыд, і ён стаў пупрывляцца — хутка савсім выздырывіїць.* Бяседавічы Хоцім.

ПІРЯХРЕСНУЦЬ, *дзеясл.* Пераламаць [з хрустам]. *Дзіцёнку прінёс палычку, а ён наступіў ны яе і піряхрёснуў, а дзіцёнык плачыць.* Серчыцы Краснап.

ПІРЯХРЮСНУЦЬ, *дзеясл.* Пераламаць [з хрустам]. *Сыбака быранчыку ногу піряхрюснуў.* Залачэўка Краснап.

ПІРЯЧОТ, -а, *м.* Улік [пераўлік, перападлік]. *Міліцэя ўсё ўзіла ны. пірячот.* Маластоўка Краснап.

ПІСАКА, -і, *м.* і *ж.* Пісака. *Нейкій пісака,* відна, столькі пісаць умеіць, ныпісаў, *што нічога ні рызьбярэш.* Арцёмаўка Мілaсл.

ПІСАНКА, -і, *ж.* Пісанка, вялікоднае яйцо, размаляванае фарбамі. *У маёй цёткі дужа цікавыя пісанка была ны вяліkдзень.* Вусце Чэрык.

ПІСАЦІЛЬ, -я, *м.* Пісьменнік. *Пріехый з Менску пісаціль Якуб Колас і будзіць выступаць у клубі.* Мсціслаў.

ПІСАЦЬ, *дзеясл.* Пісаць. *Я купіў сыну паперы, ніхай пісаць вучыцца.* Барысавічы Клім. *Хто ета пісаў, ніхай той і чытаець, бо тут так напісана, што ні рызьбярэш.* Негін. Касцюк.

ПІСКЛЁ, -я, *н.* Куранё, птушанё. *Вот піскле, ні пасьпеў зь яйца вылузацца, а ўжо зы работу бярэцца.* Ушакі Чэрык.

ПІСКЛЁНЫК, -нка, *м.* Куранё, птушанё. *Піскленык воля набіў, аж набык сьхілілысь.* Палуж Краснап. *Сыва пісклёнка схваціла, дык квакуха чуць ні ашалела крічаўшы.* Арцёмаўка Мілaсл. *Палянь, гэта ж, мусіць, самі старыя вераб'і выкінулі свайго пісклёнка з гнізда!* Ушакі Чэрык.

ПІСКЛЁНЫЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад пісклёнык. *Пасьледыш пісклёнычык чуць ходзя.* Хвёдараўка Краснап. *Ах, якія харошыя пісклёнычкі вывіліся у ластывычкі ныд вакном.* Ушакі Чэрык.

ПІСКЛЯТКА, -а, *н.* Птушанё. *Піскляткa ты маё — хадзі я прыгалублю цябе, сыночак мой міленькі.* Ушакі Чэрык.

ПІСКУЛЬГА, -і, *м.* Чалавек, які мае пісклявы голас. *Во зыгываpый ужо, піскульга етый, дык аж у вушу зьвініць.* Хвёдараўка Краснап.

ПІСКЫЎКА, -і, *ж.* Пішчык, дудачка з саломы. *Хлопчык зьдзелый з жыціны піскыўку і піскыя ходзючы.* Хвёдараўка Краснап.

ПІСТАЛЕТ, -а, *м.* Пісталет. *Я зьдзелый сабе ладный пісталет, громка стрыляіць пробкый.* Шарэйкі Касцюк.

ПІСТОН, -а, *м.* Белая конусавідная вастраверхая шапка з лямца. *Цяпер ужо ня носяць пістона, усё качумкі больш носяць, а раньшы ўсі мужчыны насілі пістоны.* Палуж Краснап.

ПІСУЛЬКА, -і, *ж.* Пісулька. *Напісаў і паслаў яму малінькую пісульку.* Сохана Мсцісл.

ПІСУН, -а, *м.* Пісака. *Ну й пісун сь цябе, так напісаў, што й вучоный ні рызьбярець.* Маластоўка Краснап.

ПІСЬКІЖ, -а, *м. заал.* Піскуж (рыба). *Я злавіў двух піськіжоў.* Вародзькава Крыч. *На вуду тут што пыймаеш, апроч піськіжа?* Старае Сяло Мсцісл. *Целый дзень сядзеў з вудыю і нічога ні злавіў, адзін толькі піськіж пупаўся.* Пячонкі Расняп.

ПІСЬМО, -а, *н.* Пісьмо [ліст]. *Німа чым пісьмо ныпісаць, чарнільніца ёсьць, ды пустая, усё чарніла высыхла.* Арцёмаўка Мсцісл. *Палучыў я сёння пісьмо ад брата, пішыць, што хутка двору прыедзець.* Мсціслаў.

ПІСЬЦЯКОМ, *прысл.* Песцяком (спосаб вязання вузла). *Вяжы вузел пісьцяком, штоб ні рызьвізаўсь.* Хвёдараўка Краснап.

ПІТАЧКА, -і, *ж.* Чарка. *Выпіў пітачку водкі, дык цяплей стала.* Хвёдараўка Краснап.

ПІТВО, -а, *н.* [Пітво], тое, што п'юць. *Пітва і емя ны свадзьбі было, сколькі хочыш.* Пячонкі Расняп.

ПІТНАЦЦЫЦЬ, -і, *ліч.* Пятнаццаць. *Сяньні мы борзда прайшлі пітнаццыць вёрст.* Добрае Мсцісл. *Мой кантыр важыць пуд і пітнаццыць хунтаў.* Лешчынка Мсцісл.

ПІТОК, пітка, *м.* [Піток, пітушчы чалавек], чалавек, што можа добра выпіць. *Плахей зь цябе піток — выпіў тры чаркі і з ног зваліўсь.* Хвёдараўка Краснап.

ПІТУШКІ, -оў, *мн. л. бат.* 1. Белакапытнік. *Пайду ў балоце нарву пітушкоў сьвіньням.* Палуж Краснап. 2. Смольныя корчыкі, сучкі. *Пітушкі доўга гыряць, пытаму што смольныя.* Хвёдараўка Краснап.

ПІХАЦЬ, *дзеясл.* Піхаць. *Ня піхай яго, ён жа малы, упадзець і паб'ецца.* Іванаўка Хоцім.

ПІХНУЦЬ, *дзеясл.* Піхнуць. *Як піхнуў мяне ў грудзі, дык я чуць ны ныгах устыяў.* Васілеўка Хоцім.

ПІЦІРНЯ, -і, *ж.* Пяцярня, пяць пальцаў, рука. *Я прылажыў к яго мордзі піцярню, а ён і пакрыўдзіўся.* Хвёдараўка Краснап.

ПІЦЬ, *дзеясл.* Піць. *Новінькій шкалік купілі гарэлку піць.* Добрае Мсцісл. *Ці табе нывіна піць гарелку?* Слаўнае Мсцісл. *Лі ў кымягу, ніхай усі п'юць.* Бяседавічы Хоцім.

ПІЧАЛЬНЫЙ, *прым.* Сумны. *Пічальный выглід у етыга дуба — пахіліўсь к зямле, быццым дзед стары.* Слаўнае Мсцісл.

ПІЧЫЯ, -і, *ж.* Печая, пякотка. *Чаго йта мяне так пічыя пякецъ? Ці ета зьела*

*чаго, аж гаріць нешта ўсё пад серцым.* Арцёмаўка Міласл. *Зьеў капусты, дык увесь дзень пічыя пякець.* Хвёдараўка Краснап. *Зыпікла пічыя, што й рады ні даць!* Парадзіна Мсцісл.

ПІШАХО́ДЗЬДЗЮ, *прысл.* Пешкі, пешаходам. *Пішаходзьдзю прыдзецца йсьці.* Краснаполле. *Пішаходзьдзю ды Магілева за дзінь зайшоў.* Шыркі Расcян.

ПІШЧ, -ы, *ж.* Ежа, ядa. *Такую пішч еўшы, ня ўздоліш с касой хадзіць.* Палуж Краснап.

ПІШЧА́НКА, -і, *ж.* Пясчанка, вядзерца з вадою і пяском, што бяруць касцы для вастрэння касы. *Дзе йта мыя пішчанка, нада ныбраць пяску, штоб хапіла надзінь.* Хвёдараўка Краснап.

ПІ́ШЧЫК, -а, *м.* 1. Пішчык, клавіш [у гармоніку]. *Лядзі — ні папорці пішчыкі ў гармоні.* Горкі Краснап. 2. Свісток, свістулька. *Узяў пішчык, ды як сьвіснуў, так коні й скокнулі.* Палуж Краснап.

ПІЯНЕ́Р, -а, *м.* Піянер. *Піянеры ходзяць з красныммі галстукамі.* Бяседавічы Хоцім.

ПЛА́ВЫЦЬ, *дзеясл.* Плаваць. *Я плавыць ня ўмею, дык баюся купацца ў глыбокім месьце, каб ні ўтапіцца.* Новыя Капачы Мсцісл. *А плавыла вінныя чара ў віннаре, ‖ А плакыла Ганутычка ў каморе.* З нар. песні, М. Г. 33.

ПЛАК, -у, *м.* Плач. *Скызаў ёй слова, а іна ў плач.* Палуж Краснап.

ПЛА́КЫЦЬ, *дзеясл.* Плакаць. *Дос табе плакыць па ём, уседно яго ні верніш.* Журбін Бялынкав. *І плачыць, і плачыць яна з таго часу няўцешна.* Пірагова Мсцісл. *Ці ты плач, ці ні плач, дык нічога ні паможыць — ня ўстаніць.* Цёмны Лес Расcян.

ПЛАНІ́ДА, -ы, *ж.* 1. Лёс, вышэйшае вызначэнне. *Мой брат памёр у мыладосьці — відаць, яго планіда тыкая.* Слаўнае Мсцісл. 2. Мноства, гурт вялікі. *Скуль гэта ныбралась гэтакая планіда дзяцей, бяжыць па вуліцы?* Маляцічы Крыч.

ПЛАНТ, -а, *м.* План. *Плант сядзібы нада несьць у раён зыпісаць, зарійстываць.* Краснаполле.

ПЛАСТ, -а, *м.* Пласт. *Засіліў на вілы пласт гною, чуць на воз узваліў.* Шавялёўшчына Мсцісл.

ПЛА́СТМА, *прысл.* Пластам. *Хлопцы прішлі з горіда позна, дасюль ліжаць пластма, ні дабудзісьсі.* Б. Хутары Краснап.

ПЛАСТО́М, *прысл.* Пластам. *Сена зьлежылысь у трысьцені, дык яго хырашо брацъ, пластом так і пыднімаецца на вілы.* Арцёмаўка Міласл.

ПЛА́ТА, -ы, *ж.* Плата. *Якая работа, такая й плата.* Палуж Краснап. *Апрыч месячный платы, я палучыла іщчэ ныддатык.* Слаўнае Мсцісл.

ПЛАТО́К, -тка, *м.* Хустка. *У яе платку красівыя мархоткі пы краёх.* Добрае Мсцісл.

ПЛАТО́ЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад платок. *Платочык з зыкраічкый.* Восаў Краснап.

ПЛАЎНІ́К, -а, *м.* Рыбацкі човен. *Мой плаўнік патрабуе рамонту, цячэць.* Тур'я Чэрык. *Вуна рыбак едзіць ны плаўніку.* Вербаж Чэрык.

ПЛАХІ́Й, *прым.* Дрэнны, нядобры. *Вобад у гэтым катку плахі.* Крычаў. *Плахій ты зьдзелыў перьвязь, сноп рызьвяжыцца.* Юркаўка Крыч. *Плахоя твае борыньня: пыкамечыць ён табе бакі.* Палуж Краснап.

ПЛАЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Плаціць. *Івану — плаціць,Ціту — грошы лічыць.* Меншая Багацькаўка Мсцісл. *Плаці грошы, і рыспалогу ніякыга німа.* Палуж Краснап.

ПЛА́ЦЬЦІЙКА, -а, *н.* Памянш. ад плацця. *Матка новыя плацьційка пашыла дзяўчынцы.* Маластоўка Краснап.

ПЛА́ЦЬЦЯ, -я, *н.* 1. Сукенка. *Ныбрала сабе мульту ны плацьця.* Сутокі Мсцісл. 2. Бялізна. *Марыся мыла на речкі плацьця і пыймала шчупыка.* Азёрцы Клім. *Ныклала плацьця поўна жлукта.* Ельня Краснап. *Плацьця пажлукцілі, цяпер трэба беч на рэчку палыскаць.* Белы Камень Бялынкав.

ПЛАЧ, -у, *м.* Плач. *Як толькі да дому падыходзіш, дык дзеці й падымаюць плач, кожны лезіць з сваёю крыўдай.* Вінаградаў Міласл. *Што ты ныеш? Проста душу выматваеш сваім плачам.* Пірагова Мсцісл.

ПЛА́ШКА, -і, *ж.* 1. Плашка, палавіна чурбака, расколатага напалам. *Ці падымім мы с табой ету плашку?* Хвёдараўка Краснап. *Распілілі плашку дроў, а зымарілісь больш, як касіўшы.* Усполле Расcян. 2. Частка ў сасе, на што насаджваюцца лемяшы. *Ні дыпыхаў троху, пытаму што ў плашцы атлымаў рычаг.* Брылёўка Краснап.

ПЛАШЧАНІ́ЦА, -ы, *ж.* Плашчаніца. *Ды плашчаніцы есьць нільзя.* Пірагова Мсцісл.

ПЛАШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Паспрабаваць. *Плашы-ка аднаму ўсе дровы піранесьць, а ты няўком ні пасобіў.* Куркаўшчына Мсцісл.

ПЛЕ́ВЫЧКА, -і, *ж.* Тонкая плёнка. *Ні дывай мне мылака с плевычкый — я есьць ні буду, ні люблю, ік іна цягніцца.* Серчыцы Краснап.

ПЛЕЙТУ́Х, -а, *м.* Пляйтух, неахайны чалавек. *Плейтух ты, к табе гідка прыступіцца.* Палуж Краснап.

ПЛЕСІ́НЬНЯ, -я, *н.* 1. Бросня, слізь, гніль. *Капуста стаіць у цёплым, дык зьверьху плесіньня стала, аж сьліска.* Арцёмаўка Міласл. [2. Плесень].

ПЛЕ́СЬНІВЫНЬНЯ, -я, *н.* [1. Плесень]. *У нашый хаці ад сырысьці пу вуглах і на столі зывялося плесьнівыньня.* Слаўнае Мсцісл. [2. Бросня, слізь].

ПЛЕХ, -а, *м.* [Вільчык], верх страхі. *Кайстру нада занесьць на плех на крышу.* Белы Камень Бялынкав.

ПЛЕШ, -а, *м.* Пляма. *Красіва дрэнныя, плішамі красіцца.* Палуж Краснап.

ПЛЕ́ШКА, -і, *ж.* Плешка, галоўка. *Цьвік бяз плешкі ні будзіць дзіржаць, выідзіць.* Бродкі Крыч. *Дам табе па плешцы.* Маластоўка Краснап.

ПЛЕ́НКА, -і, *ж.* Сіло. *У плёнку птушку злавіў.* Трубільня Краснап.

ПЛЁСА, -а, *н.* Плёса, ціхая завадзь. *Сёньня мы пайдзем у плёса рыбу лавіць.* Тур'я Чэрык.

ПЛЁСКА, -і, *ж.* Памянш. ад плёса. *На етый плёскі добра купацца.* Хвёдараўка Краснап.

ПЛЁСКЫЦЬ, *дзеясл.* Плёскаць. *Вутка мыіцца у вадзе, ныряіць, тады як пачнець плёскыць крыльлямі пы вадзе, дык аж брызкі ліцяць.* Арцёмаўка Міласл.

ПЛЁТКА, -і, *ж.* Плётка. *Во плётка што дзелыіць: кума куме, а тая кума сваёй куме, ды яшчэ й прібрешыць, так і дывядуць ды сваркі.* Арцёмаўка Міласл. *Тывырышкі паміж сабой зьвялі плёткі.* Бродкі Крыч.

ПЛЁХ, *выкл.* Плюх. *Вынісла памыйкі ды плёх іх ны дарогі, ны самым паходзі.* Арцёмаўка Міласл.

ПЛЁХНУЦЬ, *дзеясл.* Плюхнуць, выліць. *Вынісла памыйкі ды плёхнула зы парог, ці ты ні мыгла далей аднесьці?* Гібалы Касцюк.

ПЛІВУСЬЦІНЫЧКА, -і, *ж.* Тоненькая плёнка. *Кожа ны руках, як плівусьцінычка.* Хвёдараўка Краснап.

ПЛІК, -а, *м.* Гаплік. *Прышый мне плік у штаны.* Зоры Чэрык.

ПЛІС, -у, *м.* Аксаміт. *Матка надзела кыбат з плісу.* Негін Касцюк.

ПЛІСАВЫЙ, *прым.* Аксамітны, зроблены з аксаміту. *У Волькі андрак з плісавым кабатым.* Дзеражна Касцюк.

ПЛІСІЦА, -ы, *ж. заал.* Плісіца (птушка). *Плісіца літаець ны дваре, а тады сядзіць ды хвосьцікам толькі віль-віль!* Мануйлы Краснап.

ПЛІСКАЦЬ, *дзеясл.* Пырскаць. *Узяў ён венік ды дывай пліскаць на ўсіх вадой, як поп крапілам.* Ушакі Чэрык.

ПЛІСКОЎКА, -і, *ж.* Вяроўка, якою прывязваюць ворчык да бараны. *Пырвалыся пліскоўка ў маей быраны, дык я і паехыў дворý, ні дыбыранаваўшы.* Восаў Краснап.

ПЛІСНУЦЬ, *дзеясл.* [Лінуць, плюхнуць], пырснуць. *Гліна дужа густа, нада яшчэ вады пліснуць, будзець луччы мясіцца.* Арцёмаўка Міласл.

ПЛІХАЦЕЦЬ, *дзеясл.* Плюхцець. *Ныбраў вады ў бышмакі, аж плюхаціць, нада ськівуць бышмакі ды выліць воду.* Хвёдараўка Краснап.

ПЛІШЧЫЦЦА, *дзеясл.* Плішчыцца, ціснуцца, пралазіць куды-небудзь з цяжкасцю. *У кыпіраціў сёньня ня ўплішчысься, так многа людзей.* Мсціслаў. *Куды ты тут плішчысься, і біз цябе тут цесна!* Клімавічы.

ПЛІШЧЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Плішчыць. *Куды ты плішчыш тут свайго кыня? Ня бачыш, што тут каровы стыяць!* Мсціслаў. 2. Хадзіць на двор рэдкім. *Дзіцёнык плішчыць, мабыць нешта зьеў такоя.* Жалезніца Крыч.

ПЛОЙМА, -ы, *ж.* 1. Плойма, мноства. *У сыбакі блох плойма.* Дарагая Крыч. 2. Дзятва, дзеці. *Плойма гэта ўсе гутаркі з хаты вынісла.* Мядзвёдаўка Краснап.

ПЛОІЦЬ, *дзеясл.* Плоіць, завіваць. *Ганна плоіць сабе выласы, на вічарíну зьбіраіцца.* Маластоўка Краснап.

ПЛОТ, -у, *м.* Плот, агароджа. *Плот кыла саду рызваліўсь, чыніць нада.* Залесавічы Крыч. *Крапіва расьцець кыла плоту.* Пірагова Мсцісл.

ПЛОТКА, -і, *ж. заал.* Плотка. *Здобыч нівялікыя: усяго дзьве плоткі ў нерыт улезла.* Палуж Краснап.

ПЛОТНІК, -а, *м.* Цесля, дойлід. *У нашай вёсцы добрый плотнік Паўлюк.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Плотнікі зрубілі іструб.* Лапаціна Мсцісл.

ПЛОХА, *прысл.* Дрэнна, кепска. *Плоха ты дзелыіш — бацькі-маткі ня слухаіш.* Касцюшкавічы Крыч.

ПЛОШЧА, -ы, *ж.* Плошча. *Як выідзіш за етый лес, дык тама роўныя плошча вёрст на́ сім.* Крывы Лес Шумяц.

ПЛУГ, -а, *м.* Плуг. *Плуг лепшы арэць зы сахі.* Бязводзічы Мсцісл. *Пазыч ты, Мікола, мне свайго плуга зыараць той клін.* Бяседавічы Хоцім.

ПЛУТЫЦЬ, *дзеясл.* Блытаць. *Ік пычалі плутыць па лесі, дык поўны дзень плутылі — ні знойдзем дарогі, хуць ты што.* Восаў Краснап.

ПЛЫВУН, -а, *м.* [Плывун], нанесены разводдзем пясок. *Плывуном усю траву пызынясло.* Хвёдараўка Краснап.

ПЛЫНЬ, -і, *ж.* Плынь. *У етым месьці плынь вельмі быстрыя, проста з ног зьбіваіць.* Сохана Мсцісл.

ПЛЫСТМА, *прысл.* Плазам. *Ударіў яго шашкый плыстма, і шашку пулумаў.* Краснаполле.

ПЛЮГАВЕЦ, -ўца, *м.* Плюгавец, нягоднік. *Плюгавец ты, што ты дзелыіш?* Бродкі Крыч. *Ты з плюгаўцым етым хочыш дзела зрабіць, во дзівак!* Новыя Капачы Мсцісл.

ПЛЮСКЫНЬНЯ, -я, *н.* Морганне. *Дужа мне ні ныравіцца частыя плюсканьня вачамі.* Слаўнае Мсцісл.

ПЛЮСКЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Пляскаць. *Дзіцёнык сеў у лужу сярёд двыря і плюскыіць рукамі.* Мануйлы Краснап. 2. Моргаць вачыма. *Што ета ты плюскыіш вачамі, як німаведама што?* Сохана Мсцісл.

ПЛЮСЬ, *выкл.* Плюсь, цмок. *Ён пыдышоў ды плюсь яе ў шчаку і пыцылуваў.* Палуж Краснап.

ПЛЮХ, *выкл.* Плюх. *Узіла коныўку ваны ды плюх яму ў вочы.* Восаў Краснап.

ПЛЮХА, -і, *ж.* Аплявуха. *Палучыў плюху і трымайся, ды ня лезь другім разым, куды цябе ня просяць.* Сохана Мсцісл.

ПЛЮХНУЦЬ, *дзеясл.* Плюхнуць, упасці ў ваду. *На реццы ліжала тоніцькыя кладычка, я думыў, што пірайду, аж як ступіў, дык і плюхнуў у речку.* Слаўнае Мсцісл.

ПЛЯВУХА, -і, *ж.* Аплявуха. *Рызазьліўшысь, загрэў яму такую плявуху, што з воч іскры пасыпылісь.* Старае Сяло Мсцісл. *Адыйдзі, ато дыстанеш плявуху.* Аўчынец Краснап.

ПЛЯЙСЬЦІР, -а, *м.* Пляйстар. *Пызаклеівый ты сваё былячкі пляйсьціpым, можа скарей зажывуць.* Слаўнае Мсцісл.

ПЛЯМА, -ы, *ж.* Пляма. *Пырснуў ны яе гразьзю і пысадзіў на белай сукенцы пляму.* Ушакі Чэрык. *У цябе ўсё цела ў нейкых плямых.* Хвёдараўка Краснап. *Нейкыя пляма на хусткі і ніяк не атмываіцца.* Пірагова Мсцісл.

ПЛЯМЕНЬНІК, -а, *м.* Пляменнік, братні ці сястрын сын. *Пракоп лаіў, лаіў пляменьніка, а потым схапіў зы каўнер ды выштурхнуў вон.* Палуж Краснап. *Іван усё*

*ўрэмя аж па сьмерць клыпаціўся аб сваіх пляменьніках.* Пірагова Мсцісл.

ПЛЯМЕ́НЬНІЦА, -ы, *ж.* Пляменніца, дачка брата ці сястры. *У мяне ёсьць пляменьніца Алёна — братнія дычка — ды тыкая іна ветлівыя: заўсёды з прыхільнысьцю да мяне — усё «цётычка, цёцінька»!* Пірагова Мсцісл. *Быў у гысьцях у сваее пляменьніцы.* Палуж Краснап.

ПЛЯ́МІЦЬ, *дзеясл.* Пляміць, рабіць плямы. *Краска дужа дрэнныя, ні красіць, а толькі пляміць — плямымі выходзіць.* Крывы Лес Шумяц.

ПЛЯ́СКЫЦЬ, *дзеясл.* Пляскаць. *Дос табе пляскыць у ладкі — рукі пыадбіваіш!* Ушакі Чэрык.

ПЛЯСУ́Н, -а, *м.* Танцор. *Ну, брат, ён і плясун, вокам ня зглёдзіш, як яго ногі ходзюць.* Бяседавічы Хоцім.

ПЛЯСУ́НЬНЯ, -і, *ж.* Танцорка. *Вот ета плясуньня, як пусьціцца скыкаць, дык люба глядзець.* Бяседавічы Хоцім.

ПЛЯСЬНІ́ВЫЙ, *прым.* Сівабелаваты. *Есьць у яго плясьнівый, сівый конь.* Палуж Краснап. *Там пры Дунаю тыбуны маю, ‖ І сівыя, і гнядыя, і плясьнівыя.* З нар. песні, М. Г. 97.

ПЛЯСЬЦІ́ [плесьць], *дзеясл.* Плесці. *Плясьці карункі нада, а ты ўсё бегыіш.* Бродкі Крыч. *Гыварі ты па-людску, ато пляцець німаведыма што.* Слаўнае Мсцісл.

ПЛЯХО́ТКА, -і, *ж.* Пялёнка. *Пляхотка мокрыя пад дзіцёнкым, а яны ня зьменяць.* Куляшоўка Клім. *Зынясі ты, донька, на рэчку пляхоткі папылашчы дзіцячыя.* Дзеражна Касцюк. *Вазьмі пляхотку сухую на печы ды дзіцёнка перапаві.* Іванаўка Хоцім.

ПЛЯХО́ЦЬЦЯ, -я, *н.* Лахмоцце, лахманы, падранае адзенне. *Ах ты старыя Аўдоцьця, ‖ Сь цябе сыпліцца пляхоцьця.* Бардзіч Краснап.

ПЛЯЦЁНКА, -і, *ж.* Пляцёнка, уплеценыя галоўкі цыбулі. *Ны сьцяне вісяць тры пляцёнкі цыбулі.* Брылёўка Краснап.

ПЛЯЦЕ́НЬ, -тня́, *м.* Плот, агароджа з галля. *Сёньні дыплялі пляцень кругом гарода.* Людагошч Мсцісл. *Я пераскочыў праз пляцень і схуваўсь у кыныплях.* Залесавічы Крыч. *Сад абгароджаны плятнём.* Пацкава Мсцісл.

ПЛЯЧО́, -а, *н.* Плячо. *Бег, шургануўся аб дзерыва плячом — рукаў выдраў.* Парадзіна Мсцісл. *Кліщча — кряпчэй конскыга пліча.* Бязводзічы Мсцісл.

ПЛЯ́ШКА, -і, *ж.* Пляшка [бутэлька]. *Прынясі мне пляшку з іодам.* Лабаноўка Клім. *Міліцыя зыбрала пяць пляшык сымагонкі.* Бяседавічы Хоцім. *Трэціга дня купілі поўную пляшку красіну, а січас ужо ўся.* Вярбоўка Расняи. *Пляшка алею прыпала, нехта ўзяў ці што.* Крывы Лес Шумяц.

ПО́БЫЧ, *прыназ.* Побач. *Побыч Кузьмы якраз і я стаў.* Канічы Касцюк. *Ліжаў побыч дарогі, шагі ны чатыры.* Арцёмаўка Міласл.

ПО́БЫЧНЯ, -і, *ж.* Біла ў драбінах, што возяць сена. *У мыжары етыя побычні будуць тоўстыя дужа, цяжкія.* Хвёдараўка Краснап.

ПО́ВЫД, -а, *м.* Повад. *Повыд пырваўсь, і конь пабег двору адзін.* Новы Дзедзін Міласл. *Мікола пасьвіў кыня ў повадзе.* Бязводзічы Мсцісл.

ПО́ВЫЛЬ, -і, *м.* Поваль, павалены лес. *Паедзім у лес, нысыбіраім повылі на дровы.* Гарцуеўка Краснап. *Столькі насеклі лесу, цяпер нада ету повыль сыбіраць.* Слаўнае Мсцісл.

ПО́ГЛІД, -у, *м.* 1. Пагляд [выгляд]. *Іна на поглід дужа красівыя дзеўка.* Слаўнае Мсцісл. 2. Погляд, думка. *Што ты думыіш аб етым дзелі, які твой поглід: справімся мы з ім, асілім? Кажы.* Восаў Краснап.

ПО́ГРАБ, по́гріб, по́грыб, -а, *м.* Пограб. *Асьцярожна лезь у пограб, там дужа лесьніца апасьлівыя.* Пірагова Мсцісл. *Поўный пограб насыпалі картошкі.* Духнава Расняи. *Пірівязьлі мы кардохлі ў погріб з бурта, ды, мабыць, прымарозілі — гніць сталі.* Арцёмаўка Міласл. *Глядзі не прываліся ў жыролу, бо сам з погрыба ня вылізеш.* Барысавічы Клім. *Схадзі ў погрыб, прынясі гуркоў з пару ны закуску.* Мацутаўка Расняи.

ПОД, -у, *м.* Под, дно печы. *Увесь под ны ямкых, нільзя хлеба сьпеч.* Бяседавічы Хоцім. *Хлеб сядзіць у печы на подзе.* Зялёны Мсцісл. *Под хырашо высланы глінаю.* Пухнава Расняи. *Нада пірыслаць под у печы, ато гырбатым стаў.* Хвёдараўка Краснап.

ПО́ДАЛ, -а, *м.* Падол, ніз адзежы. *Подал у спадніцы брудны, скінь ты яе ды надзень чыстыю.* Залесавічы Крыч.

ПО́ДАЦЬ, -і, *ж.* Падатак. *У етым гаду я зыплаціў дваццыць рублёў подаці.* Гібалы Касцюк.

ПО́ДБІЎКА, -і, *ж.* Вузкая істужка палатна, што падшываецца ўнізе спадніцы. *Пыдымай вышы сыян, ато ўсю подбіўку абдзелыіш.* Бяседавічы Хоцім. *Спадніца гатова, толькі подбіўка йшчэ ні падшыта.* Азерцы Клім. *Падбілысь у цябе, Ганна, уся подбіўка ў сырыфані.* Крычаў.

ПО́ДЛІ, *прыназ.* Каля. *Подлі самый хаты зьдзелына лавычка, ны якой улетку сідзяць па вічарах.* Бяседавічы Хоцім.

ПО́ДЛЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Подласць, нячэсны ўчынак. *Ета подлысць зь яго боку — так паступіць.* Слаўнае Мсцісл.

ПО́ДПІС, -і, *ж.* Подпіс. *Ета ат Міколы пісьмо, во й яго подпісь унізу.* Арцёмаўка Міласл.

ПО́ДТАЧКА, -і, *ж.* Подтачка, ніжняя частка жаночай сарочкі, якая шыецца з другога, грубейшага палатна. *Чэхлік у сарочкі пашыла з крамныга, а подтычку зьдзелыю з кужылю.* Машавая Бялынкав.

ПО́ДЫЛ, -а, *м.* Падол, ніз адзежы. *Цётка насыпала мне яблык цэлый подыл.* Пацкава Мсцісл. *Подыл у сьвітцы нейдзе зыплямій.* Азерцы Клім.

ПО́ДЫЎНА, *прысл.* Даволі даўно. *Ён подыўна, як я толькі помню, ходзіць, калдыбаючы аднэй нагой.* Лешчынка Мсцісл.

ПО́ДЫЦЬ, -і, *ж.* Падатак. *Сёлета подыці палегчылі: ільготы даюць безлашадным.* Пірагова Мсцісл.

ПО́ЖАР, -у, *м.* Пажар. *Недалеча ’д нас быў пожар — згарела тодырыва пуня.* Янаўка Мсцісл.

ПО́ЖНЯ, -і, ж. Пожня. *Сена з пожні ўжо зьвязьлі і скот пусьцілі.* Маркаўка Хоцім. *Ета пожня перагонныя.* Хвёдараўка Краснап.

ПО́ЗАДЗІ, *прысл.* Ззаду. *Позадзі едзе сын зь нявесткый.* Хоцімск.

ПО́ЗІРК, -а і -у, *м.* Позірк. *Прайшоўшы, кінуў позірк ны мяне, нібыццым ніўрокым, і пайшоў ды хлопцыў.* Клясін Краснап.

ПО́ЗНА, *прысл.* Позна. *Ны рятунык зьбеглысь уся вуліца, толькі было ўжо позна.* Арцёмаўка Міласл. *Мабыць, ужо позна, нада спаць класьціся.* Маравілле Касцюк.

ПО́ЙЛА, -а, *н.* Пойла. *Целае карытца пойла наліла пырысятым, і ўсё выпілі.* Асмолавічы Мсцісл. *Гаспадыня панесла пойла цілёнку.* Прыпечына Касцюк. *Выпілі каровы ряжку з пойлым.* Хвёдараўка Краснап.

ПО́ЙМА, -ы, *ж.* Пойма, месца [ля ракі], што заліваецца ў паводку вадою. *Ідзе пойма, там трыва па поіс.* Сохана Мсцісл.

ПО́ІС, -а, *м.* Пояс. *Сістра выткыла мне шурокій поіс.* Негін Касцюк. *Жыта вырысла ўжо па поіс, скора кыласіцца будзіць.* Касцюшкавічы Крыч.

ПО́КАЛА, -а, *н.* Пражора. *Колькі яму ні дай і што ні дай, усё паесьць — такоя покала.* Ушакі Чэрык.

ПО́КЛАД, -а, *м.* Поклад. *Без поклыда курыца ня хоча несца.* Хвёдараўка Краснап.

ПО́КНУЦЬ, *дзеясл.* [Стукнуць], выцяць. *Ні с таго, ні сь сяго, як покня ён мяне па вуху, дык аж зазьвінела.* Палуж Краснап.

ПО́КУТ, -а, *м.* Покуць, кут за сталом. *Пысадзілі яго на покут, як самыга лепшыга гасьця.* Ушакі Чэрык.

ПО́КУЦЬ, -я, *м.* Покуць, кут за сталом. *На покуці пылажылі сена і пыставілі куцьцю.* Ушакі Чэрык.

ПО́КЫТАМ, *прысл.* Покатам [упокат]. *На выкзалах усюды людзей, проста покытам выляюцца ны палу.* Барысавічы Клім.

ПОЛ, -у, *м.* Пол, палок з дошак на вышыні метра ад падлогі ў сялянскай хаце, служыць як ложак. *Усі дзеці спалі на палу, а я на печы.* Юшкавічы Раснян. *Прыхадзі дальшы ды садзісь на пол.* Гарбавічы Касцюк. *Прыбяры, Дуня, пол — адзежа дужа пыраськідына.* Новыя Капачы Мсцісл.

ПО́ЛАГ, -а, *м.* 1. Полаг. *За полыгам сьпяць мыладыя, а дзеці ны палу, а старыя на печы.* Барысавічы Клім. 2. Пол [палок]. *Вунь ідзе сьвітка, ляжыць на полагу.* Буліна Касцюк.

ПО́ЛАЗ, -а, *м.* Полаз. *Полаз у санях зламіўся.* Пухнава Раснян.

ПО́ЛАК, полка, *м.* Пол [палок]. *Дзеці ўжо сьпяць на полку.* Смольская Буда Бялынкав.

ПО́ЛЕ, -я, *н.* Поле. *Як будзеш іці ў поле — ныбяры глёк вады.* Пухнава Раснян.

ПО́ЛІВА, -а, *н.* Поліва [тое, што трэба палоць]. *Ак вечыру ня скончым, яшчэ быгата поліва зысталося, толькі пылавінку выпылалі.* Палуж Краснап.

ПО́ЛІЎКА, -і, *ж.* Поліўка [зацірка]. *У суседкі тыкая поліўка смашная была, што любата.* Лешчынка Мсцісл. *Не хочыцца мне есьць ету поліўку, што ў ёй зы пажытык — адна выда.* Слаўнае Мсцісл.

ПО́ЛК, -у, *м.* Род, племя. *Увесь іх полк вымір, нікога ні зысталось, і зімля пірішла к чужым.* Барысавічы Хоцім.

ПО́ЛКА, -і, *ж.* Паліца. *На полцы ліжаў хлеб.* Малюшын Краснап.

ПО́ЛЫГ, -а, *м.* 1. Полаг. *Стаіць кырваць і палыгым завешына.* Старае Сяло Мсцісл. *Абвесь люльку полыгым, каб мухі ня лезьлі.* Хвёдараўка Краснап. 2. Пасцель парадзіхі. *Людзі поля жаць, а йна ў полызі ліжаць.* Маластоўка Краснап.

ПО́ЛЫДЗЕНЬ, -дня, *м.* 1. Поўдзень. *Ужо полыдзень, дай будзім палуднываць.* Кокатава Мсцісл. 2. Полудзень, абед. *Вазьмі полыдзінь сабе ў кашэль.* Бяседавічы Хоцім.

ПО́ЛЫЗ, -а, *м.* Полаз. *З таго дубка будзе добрый полыз. Ад етыга полыза баба расколіцца.* Ташна Клім.

ПО́ЛЫК, пылка́, *м.* Паліца ў лазні. *Лезь на полык, будзім парыцца.* Хвёдараўка Краснап.

ПО́ЛЫМЯ, -я, *н.* Полымя. *Полымя абхапіла ўжо ўсю хату, як мы прыбеглі, і нічога нільга ўжо было вынісьці — усё пыгарела.* Азерцы Клім.

ПО́ЛЬКА, -і, *ж.* Уласнае імя Паўліна. *Нашыя Полька з Хрісьціный пашлі ў лес пы ягыды.* Высокі Бор Краснап.

ПО́ЛЯ, -я, *н.* Поле. *Поля маё — трое ганей.* Паходавічы Чэрык. *Гравоя поля абсеіна.* Палуж Краснап. *Наўкола, як вокам дыстаць, усё поля і поля.* Ушакі Чэрык.

ПО́МЕЖ, *прыназ.* Паміж. *Сваркі ні було помеж мною і табою, дык чаго ж нам гневыцца.* Палуж Краснап.

ПО́МНІЦЬ, *дзеясл.* Памятаць. *Ладна аддубасілі, будзіць доўга помніць.* Мсціслаў. *Ці ты абязглузьдзіўся, што нічога ўжо ня помніш?* Сохана Мсцісл.

ПО́МСТА, -ы, *ж.* Помста. *Ён даўно меў помсту ны мяне за жонку сваю.* Слаўнае Мсцісл.

ПО́МЫЗ, -а, *м.* 1. Помаз [падмазка], кавалачак сала, якім падмазваюць скавараду, як пякуць бліны. *Помыз кошка схапіла, і скывыряду нечым пыдмазыць.* Хвёдараўка Краснап. *Помыз некуды закінуўсь, а тут трэба бліны пекчы.* Маластоўка Краснап. 2. Квач. *Калі німа чым пыбяліць печку, дык зьдзелый помыз з тряпкі, рызьвядзі мелу, во і пабеліш.* Арцёмаўка Міласл.

ПО́МЫСЛЫ, -ыў, *мн. л.* Мыслі, думкі [задумы, намеры]. *Дренныя ў цябе на ўме помыслы, хочыш суседу сьвіньню пыдлажыць.* Слаўнае Мсцісл.

ПО́НАЖ, -а, *м.* Понаж у кроснах. *Нажмеш адзін понаж, адзін ніт падыміцца, а другій спусьціцца; нажмеш другій — ныдварот.* Парадзіна Мсцісл.

ПО́НАЧЫ, *прысл.* Поначы, уночы. *Нехта поначы ходзя пыд вакном.* Палуж Краснап.

ПОП, пупа́, *м.* 1. Поп. *Поп пымянуў мне на доўг, быццым я й сам забыўсь.* Гаўрыленка Бялынкав. *У нымастыры абедню служыць поп зь дзякыным.* Тупічына Мсцісл. 2. Звязаныя некалькі снапоў, які-

мі пакрываюць жытнюю капу ад дажджу. *Плахей ты зьдзелый поп, будзіць працікаць, як дождж пойдзіць.* Гаўрыленка Бялынкав. *Зьдзелый з доўжыньніх снапой пупа, ды накрый капу ад дажджу.* Слаўнае Мсцісл.

ПО́ПЕЛ, -у, *м.* Попел. *Выгарні з печы попел, ато пойныя печка назьбіралыся.* Старае Сяло Мсцісл. *Нада вынесьць попел ны грады.* Новыя Капачы Мсцісл.

ПО́ПІРІК, *прысл.* Упоперак. *Учорашнія буря вывірнула дуб — лёг попірік дарогі, што ні праедзіш.* Слаўнае Мсцісл.

ПО́ПЛІЧ, *прысл.* Поплеч, побач. *Попліч з намі жыве дзядзька Макар.* Хвёдараўка Краснап. *Попліч са мной стыяў вісокій, стройный дзяціна.* Слаўнае Мсцісл.

ПО́ПЛЫУ, -ва, *м.* Поплаў. *Пойдзім купацца на поплыў.* Хвёдараўка Краснап.

ПО́ПРІТКІ, -кыў, *мн, л.* Попрадкі. *Гатоў кудзелю, сяньні попріткі будуць у Ганны.* Восаў Краснап.

ПО́ПЫУЗІНЬ, -зьня, *м.* Паўзун. *Ах ты попыўзінь, хадзіць ня ўмеіш!* Хвёдараўка Краснап.

ПО́ПЫУЗКЫМ, *прысл.* Паўзком. *Як зьдзівяліў яго нехта па гылаве, дык ён попыўзкым папоўз.* Палуж Краснап.

ПО́РКЫЦЦА, *дзеясл.* Пароцца, шукаць [поркацца]. *Дос табе ужу поркыцца — шукай, ні шукай, усё роўна ні найдзеш.* Арцёмаўка Міласл.

ПОРТ, -у, *м.* Кудзеля, счэсаная напал воўна з лёнам. *Я ныпряла два хунты порту.* Тур'я Чэрык.

ПО́РХЫУКА, -і, *ж. бат.* Порхаўка. *Порхыўкі пы балоці пайсходзілі пысьля дажджу, як яйцы беліңькія ліжаць.* Глупікі Крыч. *Ходзючы, порхыўку раструшчыў, дык аж дым пашоў — пасьпела ўжо.* Хвёдараўка Краснап.

ПО́СЛУГА, -і, *ж.* Прыслуга, наймічка. *Зайсёды лепш самому гаспыдарыць, як послугай быць.* Ушакі Чэрык.

ПО́СНЫЙ, *прым.* Посны. *Посны крупнік нісмашны.* Гаўрыленка Бялынкав. *Алейныя каша смашней за посныю.* Старае Сяло Мсцісл.

ПОСТ, -у, *м.* Пост. *У вялікій пост алеім толькі і жывём.* Тур'я Чэрык. *Грэная нядзеля — усяёдныя: у сіряду і ў пятніцу німа посту.* Гібалы Касцюк.

ПО́СТАУКА, -і, *ж.* Подтачка [ніжняя частка жаночай сарочкі з іншага гатунку палатна]. *У крамный сароццы кужэльныя постаўка.* Камароўка Крыч. *Сарочка пракалёвыя, а постаўка пасканныя.* Гібалы Касцюк.

ПО́СТАЦЬ, -і, *ж.* Постаць, частка поля, занятая жнеямі. *Постаць вялікая йшчэ, ні дажнём да вечыра.* Сутокі Мсцісл. *Учатырох як зынялі постаць, так у момант і зжалі.* Вярбоўка Раснян.

ПО́СТУВАЦЬ, *дзеясл.* Пасціць. *Што ты тут апрічоньне заводзіш, адны будуць сала есьць, а другія постувацъ?* Пірагова Мсцісл.

ПО́СТУПНЫЙ, *прым.* Паступовы. *Вот так, поступным пырядкым мы падсунім етый камінь ды сьцяны.* Трубільня Краснап.

ПО́СТЫУКА, -і, *ж.* Подтачка [ніжняя частка жаночай сарочкі з іншага гатунку палатна]. *Постыўку абмачыла, праўшы плацьця.* Горкі Краснап.

ПО́СЫД, -ы, *м.* [Посуд], пасуда. *Памый-ка ты посьлі абеда посыд: ложкі, міскі, гаршкі і пыстаў усё пыд загнет.* Слаўнае Мсцісл.

ПО́СЬЦІЛКА, -і, *ж.* Посцілка. *Памыла б ты, Тадора, сваю посьцілку, ато іна дужа грязна.* Хлышчова Мсцісл.

ПОТ, -у, *м.* 1. Пот. *Я так спалохылыся, што пот выступіў.* Новы Дзедзін Міласл. 2. Рыжы, нягодны асадак у дзёгці. *Чым тут пыдмазыць калёсы, адзін пот зыстаўсь!* Хвёдараўка Краснап.

ПО́УДЗЕНЬ, -дня, *м.* Полудзень, абед. *Нарэж-ка ты там віччыны нам на поўдзень у поле!* Пірагова Мсцісл.

ПОУЗ, *прыназ.* Каля, паўз. *Ішоў поўз прасла і дзядоў ныбраўся.* Рагі Быхаўск.

ПО́УЗАЦЬ, *дзеясл.* Поўзаць. *Грычанкі поўзаюць па жыці.* Хвёдараўка Краснап. *Усякыя погань тут поўзыя: і прусакі, і тыраканы.* Крывы Лес Шумяц.

ПО́УНА, *прысл.* Поўна. *Ні налівай поўна, ато разальеш.* Маляціčы Крыч. *Цябе, жэўжык, усёдых поўна.* Лешчынка Мсцісл.

ПО́УНЫЙ, *прым.* 1. Поўны. *Поўны навой намотана нітак.* Вярбоўка Раснян. *Лазобка поўна мёду.* Залесавічы Крыч. *На што ты наліла поўныя вядро — ні дынясеш.* Хоцімск. *Поўны лазьбень мёду прыдалі.* Вербеж Чэрык. 2. Цэлы. *У ноч пад Івана Купалу дзеўкі і хлопцы гуляюць і сьціра-гуць ведзьму поўную ноч.* Канічы Касцюк.

ПО́УНЫМ, *прысл.* Поўна. *Нутурыў мех поўным, як вока.* Хвёдараўка Краснап.

ПО́УНЫЧ, -ы, *ж.* Поўнач. *Пятухі пяюць у поўныч і досьвіта.* Арцёмаўка Міласл. *Поўныч ужу, а яго ўсё німа, каб ні здарылася чаго з ім у дарозі.* Ушакі Чэрык.

ПОУСЬЦЬ, *дзеясл.* Паўзці. *Штоб яго ні замецілі, ён прісеў у быразьне і стаў поўсьць ны каленкых і руках.* Арцёмаўка Міласл.

ПОУСЬЦЬ, -і, *ж.* Поўсць. *У сыбакі поўсьць цёплыя, яму добра і ны марозі.* Юркаўка Крыч.

ПОУХ, -а, *м.* 1. *заал.* Воўк. *У нашай вёсцы поўх трох авечак загрыз.* Барысавічы Клім. 2. Гарнастай. *Поўх усе яйцы птушыныя паеў.* Хвёдараўка Краснап.

ПО́УХА, -і, *ж.* Аплявуха. *Міхась зыляпіў яму такую поўху, што аж зашчочына красныя стала.* Хвёдараўка Краснап.

ПО́УШЫНА, -ы, *ж.* [Аплявуха], удар па вуху. *Са злосьці я ўляпіў свайму суседу поўшын пяць, ніхай носіць ны здароўя.* Слаўнае Мсцісл.

ПО́ХАД, -а, *м.* Яма перад печкай у асеці. *Дзед палез у похад зытапліваць ёўню.* Новыя Капачы Мсцісл.

ПО́ХВА, -ы, *ж.* Похва. *Дзед пылажыў акуляры ў похву.* Пацкава Мсцісл. *Ясь, ні кідай ты брытвы бяз похвы, ато хто-нібудзь схваціць і абрэжыцца.* Добрае Мсцісл.

ПО́ХЫД, -а, *м.* Яма перад печчу ў асеці. *У нашым гумне малінкі похыд.* Пухнава Раснян.

ПО́ЦІМКІ, -каў, *мн. л.* Поцемкі. *Поцімкі спрыўляіця — агню німа ці што?* Ла-

паціна Мсцісл. *Нязгодна ў поцімках работыць.* Слаўнае Мсцісл.

ПОЦЯГ, -а, *м.* Пуга. *Хлопчык зьдзелыў сабе поцяг з вяровычкі ды гыняіць курэй і пырысят.* Маляцічы Крыч.

ПОЧАПКА, -і, *ж.* Почапка, пачопка, дужка вядра. *Зьдзелый ты, Тодар, почыпку ны вядро, ато нечым вады прынесьць.* Барысавічы Клім. *Ны вядры скора парвецца почапка.* Залесавічы Крыч.

ПОЧВА, -ы, *ж.* Глеба. *Ны нашу почву нада многа гною, каб што зырадзіла.* Дзягавічы Касцюк.

ПОЧЫТ, -а і -у, *м.* 1. Павага, пачот. *Чылавек ён знаный — яму ўсюдых почыт.* Шумячы. 2. Першы экземпляр. *Кніжка толькі вышла, я быдай што почыт узяў.* Мсціслаў.

ПОШАРСЬЦЬ, -і, *ж.* Пошасць. *Нейкыя пошарсьць ходзіць: усі дзеці хвареюць.* Гарбавічы Касцюк.

ПОШАСЬЦЬ, -і, *ж.* Пошасць. *Усі сьвіньні паздыхалі — нейкыя пошасьць ныйшла.* Парадзіна Мсцісл. *Пошасьць нейкыя ныпала ны дзяцей.* Гусарка Клім. *Ета пошысьць нейкыя ходзіць: па ўсёй дзярэўні дзеці хвареюць жывытамі.* Арцёмаўка Міласл.

ПОШЛІНА, -ы, *ж.* Мыта [пошліна]. *Нылажылі бальшую пошліну ны зыгранічныя тывары, таму яны і дорыгі так сталі.* Бяседавічы Хоцім.

ПРА, *прыназ.* Пра. *Ці ведыіш ты, што пра цябе гаворыць?* Юшкі Мсцісл. *Пра яго гаворыць, што ён Мацеіва гумно пытпаліў.* Зоры Чэрык. *Пра тоя ж я і гывару, што так нільзя дзелыць.* Залесавічы Крыч.

ПРАБАЧНА, *прысл.* Прабачна [даравальна]. *Ты йшчэ мылая, нічога ні ведаіш — табе прабачна, калі і скажыш што саромныя.* Ушакі Чэрык.

ПРАБАЧЫЦЬ, *дзеясл.* Выбачыць, дараваць. *Прабач ты яму на гэсты раз, ён у другі раз ня будзець так дзелыць.* Вербеж Чэрык.

ПРАБІЦЬ, *дзеясл.* Прабіць. *Пыдай мне долыта, нада прабіць дзірку.* Горня Хоцім.

ПРАБОРКА, -і, *ж.* 1. Праборка, настаўленне з пагрозай. *Міхась свайму сыну даў добрыю праборку за тоя, што паехыў у горыд, пакінуўшы работу.* Асмолавічы Мсцісл. 2. Расчыстка луга. *На лузе рабілі праборку ўсей дзярэўняй.* Хвёдараўка Краснап.

ПРАБОСЬЦЬ, *дзеясл.* Прабасці, прабадаць, прабіць рогам. *Нада ж было карові так прабосьць авечку, што й дня ні прыжыла.* Слаўнае Мсцісл.

ПРАВА, -а, *н.* Права. *Чыя сіла, таго і права — нічога ня зьдзелыіш.* Юркаўка Крыч.

ПРАВАЛІВЫЦЦА, *дзеясл.* Правальвацца. *Снапы праваліваюцца, нада падсцельнікі ў калёсы пылажыць.* Бяседавічы Хоцім.

ПРАВАЛІЦЦА, *дзеясл.* Праваліцца. *Глядзі не праваліся ў погрыб, бо ня вылезеш адзін.* Барысавічы Клім.

ПРАВАЛЬЛЯ, -я, *н.* Прорва, праваліна. *А між гор было такоя правальля вялікыя — глянулі туды, аж гылыва закруцілась.* Ушакі Чэрык.

ПРАВЕДНЫЙ, *прым.* Справядлівы. *Ён чылавек праведный, яму можна верыць.* Хвёдараўка Краснап.

ПРАВІЛА, -а, *н.* Правіла, устаноўлены парадак. *Дзіцёнык акшчоный пу правілу хрісьціянськыму.* Слаўнае Мсцісл.

ПРАВІЛА, -а, *н.* Правіла, тоўстая жэрдка, што злучае перадок [лесавозных] калёс з задняй часткай. *Пупраў там правіла, ато бірвяно зваліцца, дык тады ні падымеш.* Бяседавічы Хоцім.

ПРАВІЛЬНА, *прысл.* Правільна, праўдзіва. *Ён паступіў правільна, калі адмовіўся ат етыга дзела, і нечыга ны яго нарікаць.* Юркаўка Крыч.

ПРАВІЛЬНЫЙ, *прым.* Правільны. *Зьдзелылі правільный рысклад налогу, дык скора і выпаўнілі.* Юшкі Мсцісл. *Лінейка ета ні правільныя — кріва лінеіць.* Шарэйкі Касцюк.

ПРАВІЦІЛЬСТВА, -а, *н.* Урад. *Січас правіцільства ні царскыя, а рабоча-крісьцянскыя.* Пірагова Мсцісл.

ПРАВІЦЬ, *дзеясл.* Весці, кіраваць. *Памёр бацька, цяперь правіць хыдзяйства некыму.* Слаўнае Мсцісл.

ПРАВОРНЫЙ, *прым.* Дасціпны [жвавы]. *О, ты праворный — усюдых пасьпеіш.* Гібалы Касцюк.

ПРАВЫ, -оў, *мн. л.* Правы. *Чуць дайшоў сваіх правоў.* Парадзіна Мсцісл. *Паехыў Пракоп у Клімывічы — правоў, пырядкыў даходзіць.* Журбін Бялынкав.

ПРАГКІЙ, *прым.* Які лёгка расколваецца. *Ета дзерыва прагкыя: толькі тыпаром ударыш, дык і рызьляціцца.* Хвёдараўка Краснап.

ПРАГЛЯД, -у, *м.* Прагляд. *Як я ехыла ў вагоні, дык быў прагляд дакумантаў у пысажыраў.* Ушакі Чэрык.

ПРАГЛЯДЗЕЦЬ, *дзеясл.* Прагледзець. *Ну і варона ж ты — праглядзеў, як беглі авечкі, цяпер шукай іх па чужых дворах.* Ушакі Чэрык.

ПРАГНАЦЬ, *дзеясл.* Прагнаць. *Прагнаў сыбаку, а ён ізноў тут.* Прусіна Касцюк.

ПРАГНУЦЬ, *дзеясл.* Прагнуць, перажываць мукі ад моцнага жадання. *Іна прагніць па ім.* Кокатава Мсцісл.

ПРАГНЯВІЦЬ, *дзеясл.* Прагнявіць. *Маіць мы прагнявілі бога, што ў нас хлеб ня родзіць.* Собалеўка Калінішчына.

ПРАГОЛЬВЫЦЬ, *дзеясл.* Прарэджваць. *Сад зарос вішыньнікым — нада прагольвыць, ды некылі ўсё.* Мануйлы Краснап.

ПРАГОН, -а, *м.* 1. Сцежка, пратоптаная быдлам. *Пы ўсяму лесу кароўскія прагоны йдуць.* Хвёдараўка Краснап. 2. Доўгае бервяно, што кладзецца над ваконнымі прарэзамі ў хаце. *Сяньні будзім класьць прагоны над вокнымі.* Там жа.

ПРАГОРКНУЦЬ, *дзеясл.* Прагоркнуць. *Масла маё, ліжаўшы ў сундучку, прагоркла, што есьць нільзя.* Гаўрыленка Бялынкав.

ПРАДАВАЦЬ, *дзеясл.* Прадаваць. *Ганчар прадае гліняную пасуду.* Прыпёчына Калінішчына.

ПРАДАЦЬ, *дзеясл.* Бегаць то туды, то сюды. *Нешта ты сягоньні прадаіш цэльнінь-*

*кій дзень, то з хаты, то ў хату.* Лютня Краснап.

ПРАДЗЕЎБЫНЫЙ, *прым.* Прадзяўбаны. *Яйцо ужо прадзёўбыныя — скора післятка вылізіць.* Аўчынец Краснап. *Наша карыта ні гадзіцца, яно прадзёўбыныя ўжо, дзіркі трі ці чатыры ёсьць.* Слаўнае Мсцісл.

ПРАДЗІВА, -а, *н.* Прадзіва, пража. *Ну куды ета тваё прадзіва гадзіцца — дзе пень, дзе калода; ты раўней прадзі.* Прусіна Касцюк.

ПРАДЗІД, -а, *м.* Прадзед, дзедаў бацька. *У яго яшчэ прадзід жывы, а дзед дык здыравей за дуба.* Асавец Крыч.

ПРАДЗІДЫ, -аў, *мн. л.* Прадзеды, продкі. *Ён сам месный: яго тут дзяды і прадзіды жылі.* Бяседавічы Хоцім.

ПРАДЗІРАВІЦЦА, *дзеясл.* Прадзіравіцца, зрабіцца дзіравым. *Алейніца прадзіравілась, і алей цякець.* Канічы Касцюк.

ПРАДОЛЬНЫЙ, *прым.* [Падоўжны], прадоўжны. *Побачні або побацні ў нас называюцца прадольныя круглыя жардзіны ў мажарах.* Хвёдараўка Краснап.

ПРАДОЎБЫНЫЙ, *прым.* Прадзяўбаны. *Прадоўбыныя паніўка за ноч апяць замёрзла.* Шумячы.

ПРАДПАЧУВАЦЬ, *дзеясл.* Прадчуваць, адчуваць наперад. *Кызала ж, ні едзь ты на ныч — прадпачувала маё серца нядобрыя, адыбралі ў лесі грошы.* Ушакі Чэрык.

ПРАДРАЧЭНЬНЯ, -я, *н.* Прадраканне. *Прадрачэньню твайму больш ні веру — во і вярнуўсь мой Сымон жывы і здаровы з вайны.* Ушакі Чэрык.

ПРАДУРАЦЦА, *дзеясл.* Выспацца. *Прадурайся сёньня наш Лявон: целую пару прыспаў у пуні.* Хвёдараўка Краснап.

ПРАДУХАВІНА, -ы, *ж.* Прадушына. *Ну хоць бы вы прадухавіну пусьцілі у склепі, ато ўсё пагніець, бо туды ж чысты воздух ні заходзіць.* Ушакі Чэрык.

ПРАДУШЫЦЦА, *дзеясл.* Выйсці на свежае паветра. *Пойдзім на вуліцу, прадушымся троху, ато ў хаці надта душна.* Хвёдараўка Краснап.

ПРАЕХЫЦЬ, *дзеясл.* Праехаць. *Высіклі лес, дык зы лымаччым праехыць нільзя стала.* Слаўнае Мсцісл. *Ці можна тут праехаць праз балота? Можна, праедзіце.* Палуж Краснап.

ПРАЖА, -ы, *ж.* Пража. *Пража тонка спрана.* Крычаў. *Дзеўчына прала пражу.* Сідараўка Краснап.

ПРАЖМО, -а, *н.* Пучок недаспелых яшчэ каласкоў жыта, які абсмальваюць на агні і ядуць, калі зярняткі папякуцца. *Васька, давай будзем пражмо пражыць.* Глінь Касцюк. *Тодыр нырваў калосься і будзіць пражмо прэгч.* Палуж Краснап.

ПРАЖОНКА, -і, *ж.* Яешня. *Яна мяне пычыстувала пражонкый с кыўбасою.* Палуж Краснап.

ПРАЖОРА, -ы, *м.* і *ж.* Пражора, абжора. *Пражоры етыму сколькі ні дывай — усё зьесьць і мала.* Касцюковічы.

ПРАЖЫЦЬ, *дзеясл.* Пражыць, пячы, смажыць. *Маці яешню пражыць, будзем есьць зарыз.* Мсціслаў.

ПРАЗ, *прыназ.* Праз, цераз. *Хлопцы палезьлі праз паркан у сад.* Ганнаўка Клім. *Я праз парог, а ён праз мяне.* Бяседавічы Хоцім.

ПРАЗВОДКА, -і, *ж.* Абман, правакацыя. *Ета ні правільныя гаворка, а праводка толькі, штоб вас падвесьці.* Палуж Краснап.

ПРАЗМУСТА, -ы, *м.* Спакуснік, абманшчык. *Ета ня хлопіц, а празмуста: усіх дзевык пызвадзіў.* Маластоўка Краснап.

ПРАЗРЫСТА, *прысл.* Празрыста. *Сукенка твыя вельмі празрыста — гэта ж сьвіціцца праз яе ўсё пыд нізом.* Ушакі Чэрык.

ПРАЗУКЫВЫТЫЙ, *прым.* Пранырлівы, дасціпны. *Ён празукывытый чылавек — усюдых пасьпея.* Хвёдараўка Краснап.

ПРАЗЬВЯСЬЦІ, *дзеясл.* Падвесці, ашукаць. *Ты мяне празьвяла: скызала, што прыдзеш, і ні прышла.* Тур'я Чэрык.

ПРАЗЬНІК, -а, *м.* Свята. *Скора будзіць празьнік вялікыдня.* Слаўнае Мсцісл.

ПРАЗЭНСТВА, -а, *н.* Кпіны. *На што ета празэнства над хлапцом, ці ж ён хацеў етыга, ён жа ні віныват, што вы насьміхаіцесь.* Юр'евічы Касцюк.

ПРАЗЯБНУЦЬ, *дзеясл.* Празябнуць. *Накрыйся дзяругыю, ато празябніш — ноч халодныя.* Галоўчыцы Клім.

ПРАЙГРАЦЬ, *дзеясл.* Прагуляць. *Базыль прайграў Вольцы шмат арэхаў.* Шарэйкі Касцюк.

ПРАЙДОХА, -і, *м.* і *ж.* Прайдоха [прайдзісвет]. *Ну, дый прайдоха ж ты!* Галоўчыцы Клім.

ПРАЙМАЦЬ, *дзеясл.* Праймаць. *Адзеты, здаецца, цёпла, а мароз праймаець.* Мсціслаў. *Падбуй цёплыя 'нучы, дык мароз ні праймець.* Палуж Краснап.

ПРАЙЦІЦЬ, *дзеясл.* Прайсці. *У яго шыбкыя хыда, ён можыць сем вёрст у час прайціць.* Арцёмаўка Міласл. *Схадзі ты, Зосічка, ды старой Піліпіхі — іна зыгаворіць табе руку, дык прайдзець.* Залесавічы Крыч. *Сколькі мы тут прайшлі, а я ўжо стаміўся, далей іціць не магу.* Канічы Касцюк. *Куля навыліт прайшла.* Бабынічы Мсцісл.

ПРАКАЛЁВЫЙ, *прым.* Паркалёвы, зроблены з паркалю. *У цябе сарочка пракалёвыя ці што? Ды не, кужэльная.* Гібалы Касцюк. *Надзень пракалёвыю сарочку, там жа будуць чужэя людзі.* Барысавічы Клім.

ПРАКАЛЬ, -ю, *м.* Паркаль, крамнае палатно. *Пракаль плаціла па трыццыць капеік за аршын.* Ельня Краснап. *Купі сабе пракалю ны сарочку.* Крычаў. *У кыпіраціве, акрамя пракалю, нічога німа, ніякіх мацерый.* Пірагова Мсцісл.

ПРАКАН, -а, *м.* Паркан. *Перылезь вун праз пракан, назьбірай падылікаў.* Ельня Краснап.

ПРАКІСНУЦЬ, *дзеясл.* Пракіснуць. *Твораг пракіс, што есьць нільга.* Хоцімск. *Дыстань крупеню з печы, ато іна пракісьніць.* Машавая Бялынкав.

ПРАКЛАДЧЫК, -а, *м.* Той, хто пракладвае дарогі. *Глядзі, пракладчык, я табе пулумаю ногі; што ты мне пожню топчыш?* Хвёдараўка Краснап.

ПРАКЛЁНЬНІК, -а, *м.* Праклённік, чалавек, што кляне. *Праклёньнік ты, за што ты мяне клянеш?* Хвёдараўка Краснап.

ПРАКЛЁНЬНІЦА, -ы, *ж.* Праклённіца, жанчына, што кляне. *Ну й праклёньніца ж ета Аўдоцьця — як пычанець клясьці, дык як па кніжкі чытаець, і адкуль у яе бярэцца?* Касцюковічы Крыч.

ПРАКЛЯСЬЦЬ, *дзеясл.* Праклясці. *Ня йдзі к ёй лепш, ато аббрешыць посьлі, што сам сябе праклянеш, зачым хадзіў!* Юшкі Мсцісл.

ПРАКОЛАНЫЙ, *прым.* Пракола̀ны. *У сыбакі пракол̀аны бок, нехта віламі, знаць, прыкалоў.* Залесавічы Крыч.

ПРАКОП, -а, *м.* Уласнае імя Пракоп. *Пракоп свайго кыбанчыка ўжо забіў.* Палуж Краснап.

ПРАКОС, -а, *м.* Пракос, пакос, рад скошанай травы. *Прайшоў два пракосы добра, а на трэцім касу ў купіну ўвыгнаў, дык чуць ні пырваў.* Горня Хоцім. *Пракос твой шырокій, я такога ні займу.* Мсціслаў.

ПРАКУДА, -ы, *м.* Пракуда [вясёлы дасціпнік]. *Ну і пракуда хлопец, памарыў усіх сьмехым!* Сохана Мсцісл. *Ну і пракуда ж ты быў, як быў малы: якіх ты толькі штук ні тварыў.* Ушакі Чэрык. *Што зы пракуда етый дзіцёнык, самыга злога насьмешыць.* Слаўнае Мсцісл.

ПРАКУДЗІЦЬ, *дзеясл.* Пракудзіць [тварыць, штукарыць]. *Што ета там у хаці так сьмяюцца, што аж тут чуваць? Ды ета Хвёдар там нешта пракудзіць.* Зоры Чэрык.

ПРАЛЕЗЬЦЬ, *дзеясл.* Пралезці. *Тут тыкая гушчэча, што ні пралезьць.* Палуж Краснап. *От жэўжык, нек пралез-такі.* Клімавічы.

ПРАЛЕСАЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад пралеска. *Сярёд талыга сьнегу вясною ўжо пыкызаліся зялёныя пралесачкі.* Слаўнае Мсцісл.

ПРАЛЕСКА, -і, *ж. бат.* Пралеска. *Сьнег толькі што сышоў, а ўжо пралескі зацьвілі.* Паходавічы Чэрык.

ПРАЛІХІЙ, *прым.* Вельмі ліхі. *Длі мяне сьвякрова — ведзьма праліхая.* Палуж Краснап.

ПРАЛЫМАЦЦА, *дзеясл.* Праламацца. *Як узьехылі на лёд, дык спычатку толькі тряшчэў і гнуўся, а тады пралымаўся, а сані пад лёд.* Куравічы Мсцісл.

ПРАЛЫМАЦЬ, *дзеясл.* Праламаць, прабіць. *Пынапілісь п'яныя ды зьвялісь біцца, каму як пупала, німаведыма, а Максіму гылаву пралымалі.* Шумячы.

ПРАМА, *прысл.* Проста. *Хоць ён і п'яны, але ішчэ прама ходзіць — у бакі ні хістаіцца.* Ушакі Чэрык.

ПРАМЕРЗНУЦЬ, *дзеясл.* Прамерзнуць. *Зімля яшчэ ні пасьпела глыбока прамерзнуць, мароз нівялікій.* Негін Касцюк.

ПРАМІЖСОБКУ, *прысл.* Паміж сабою. *Яны нешта гаворацъ праміжсобку.* Палуж Краснап.

ПРАМІЖСОБКЫЮ, *прысл.* Паміж сабою. *Праміжсобкыю пыгыварылі і пашлі сабе ў лес.* Ельня Краснап.

ПРАМОКНУЦЬ, *дзеясл.* Прамокнуць. *Ні купляй падмёткі з жыўцом, ато січас прамокнуць.* Слаўнае Мсцісл. *Як пайшоў дождж, дык мы да ніткі прамоклі.* Трубільня Краснап.

ПРАМУЛЯЦЬ, *дзеясл.* Працерці, прататаць. *Прамуляла я свае панчохі — усі пяткі на дзірках.* Ушакі Чэрык.

ПРАМУЧЫЦЦА, *дзеясл.* Прамучыцца, прапакутаваць. *Хворый прамучыўся зь нядзелю ды й памёр.* Слаўнае Мсцісл.

ПРАМЫЦЬ, *дзеясл.* Прамыць. *Прамый ранку сьпірытам ці ёдым залі, ато гніць будзіць.* Клімавічы.

ПРАНЕСЬЦІ, *дзеясл.* Пранесці. *Пакойніка ужо кыля нас пранесьлі, на вуліцу зывярнулі.* Крычаў.

ПРАНЕСЬЦІСЯ [пранесца], *дзеясл.* [Пранесціся], шпарка прабегчы. *Дужа шпарка пранёсься конь па полю.* Слаўнае Мсцісл.

ПРАНІК, -а, *м.* Пранік. *Я мыла бяльлё, а пранік быў з шурпатыю ручкую, дык мызалі сабе на руке нацёрла.* Арцёмаўка Міласл. *Зьбегый ты, Агатка, вазьмі пранік, я ля рэчкі пакінула, як мыла бялізну.* Шумячы.

ПРАНЦЫ, -аў, *мн. л.* Пранцы (хвароба). *У іх пранцы. Сымон з сылдатаў прынёс, дык і жонку ныдзяліў, і дзеці ўжо хворыя.* Курасоўка Мсцісл. *Дыстаў нейдзе ў горыдзі пранцаў, цяпер усё да дохтыра ходзіць.* Гібалы Касцюк.

ПРАНЫКЫЦЬ, *дзеясл.* Прахадзіць сюды-туды. *Вот так целый дзень пранык̀ыіш і нічога ня зробіш.* Хвёдараўка Краснап.

ПРАНЫРА, -ы, *м.* і *ж.* Праныра, пралаза. *Ня люблю я яго: такій ён праныра, што ўсюдых пралезіць.* Пірагова Мсцісл.

ПРАНЬНІК, -а, *м.* Пранік. *Праньнік дужа няёмкі, надта рукі націраець: покуль бяльлё памыіш, дык мызалі паўскочуць.* Расна. *Маці мыла на речкі бялізну і забыла там праньнік.* Лапаціна Мсцісл. *Етым праньнікым ня дужа пірянеш.* Хвёдараўка Краснап.

ПРАПАЛІЦЬ, *дзеясл.* Прапаліць. *Маленькыя іскырка ўпала і прапаліла мне штаны.* Канічы Касцюк.

ПРАПАНАВАЦЬ, *дзеясл.* Прапанаваць. *Прапанаваў я ёй есьці са мной — ні зыхацела, ну і ні нада, адзін пайду.* Ушакі Чэрык.

ПРАПАСЬЦЬ, *дзеясл.* 1. Прапасці, згінуць [згубіцца]. *Мой ножык нейдзе прапаў, як у воду ўпаў.* Лабаноўка Касцюк. 2. Здохнуць. *Карова надовічы у Лукаша прапала, павёз закопваць.* Янаўка Мсцісл.

ПРАПІКНУЦЬ, *дзеясл.* Праткнуць [пракалоць], прабіць. *Кінуў вілымі ў пырасёнка і прапікнуў яго наскрозь.* Арцёмаўка Міласл.

ПРАПІЦЬ, *дзеясл.* Прапіць. *Нядзелю зырыбляў, а за 'дзін вечыр прапіў.* Іванаўка Хоцім. *Вымантачый у мяне грошы ды прапіў.* Горкі Краснап.

ПРАРАДЗІЦІЛЬ, -я, *м.* Продак. *Атродак панській пахож ны свайго прарадзіціля.* Арцёмаўка Міласл.

ПРАРЭЗКА, -і, *ж.* Пятля ў вопратцы. *Кравец пашыў паліто, толькі прарэзкі асталось зьдзелыць ды гузікі ўшыць.* Людагошч Мсцісл.

ПРАС, -а, *м.* Прас. *У цябе прас яшчэ гырячый — пупрясуй мне кофту, ато вельмі мятыя.* Ушакі Чэрык.

ПРАСАВА́ЦЬ, *дзеясл.* Прасаваць. *Яніна прасавала бялізну, дык апікла руку.* Малюшын Краснап. *Кравец прасуець паліто.* Чэрыкаў.

ПРАСЕ́КА, -і, *ж.* Прасека, прасечанае месца ў лесе. *Частку лесу вырубілі, стала вялікыя прасека — коні добра пасьвіць.* Слаўнае Мсцісл.

ПРАСЕ́КЧЫ [прасе́ч], *дзеясл.* Прасекчы. *Лёд ны рацэ такі тоўсты, што чуць паніўку прасекла.* Ушакі Чэрык.

ПРАСІЛЬЛЯ, -я, *н.* Прасла. *Пуўз прасільля ішоў, дык вайкоў ныбраўся.* Брылёўка Краснап.

ПРАСІ́ЦЦА, *дзеясл.* Прасіцца. *Прасіўся, але ж ні ўзялі, ні зыхацелі.* Залесавічы Крыч.

ПРАСІ́ЦЬ, *дзеясл.* Прасіць. *Луччы памерць, чым у яго прасіць.* Арцёмаўка Міласл. *Ня хочыш, ні нада — прасіць ня буду.* Зоры Чэрык. *Прасілі, малілі — ні хацеў даць, а ў канцы-ткі здаўся.* Маластоўка Краснап.

ПРАСКО́ЎКА, -і, *ж.* Вяроўка, якою прывязваецца барана да ворчыка, каромысла. *Бырына зычапілась за пень, і праскоўка пырвалысь.* Хоцімск. *Праскоўку ў быране пірывізаць трэба, ато ноды парвецца.* Хвёдараўка Краснап. *У цябе праскоўка добрыя — з ланцуга.* Пухнава Расням. *Дрэнныя ў цябе праскоўка, глядзі, штоб ні пырвалысь.* Крычаў.

ПРАСКУРА́, -ы, *ж. бат.* Праскурнік, мальва. *Праскура расьцець пры дарозе, у яе шырокій ліст і пупышачкі ны сьцяблі.* Пірагова Мсцісл.

ПРАСКУ́РКА, -і, *ж.* Праскура, прэсны хлеб (ужываецца ў рэлігійных абрадах). *Поп на прічасьці дываў віна і праскуркі пакушыць.* Арцёмаўка Міласл.

ПРАСКУ́РЬКА, -і, *ж.* Перапечка. *Сяньні, мама, праскурькыў ныпячы, ладна?* Хвёдараўка Краснап.

ПРАСКУ́РЬНІК, -а, *м. бат.* Праскурнік, мальва паўночная. *Праскурьнік лі нашый хаты рос, дык дзеці, бывала, усё праскуркі елі зь яго.* Парадзіна Мсцісл.

ПРАСКУ́ТА, -ы, *ж.* Уласнае імя Параска. *Праскута і Пёкла былі ў лесі і ныбралі ягыд, заўтрі пойдзім і мы.* Арцёмаўка Міласл.

ПРАСЛА, -а, *н.* Прасла. *Трэба гарод пачыніць, адно прасла зусім рызвалілыся.* Мсціслаў. *Загарадзі прасла, ато сьвіньні ў гарод лазяць.* Асавец Крыч. *Чалавек гарадзіў гарод праслам.* Дзяніскавічы Навазыбк. *Алесь пераскочыў у гарод праз прасла.* Шумячы.

ПРАСНА́К, -а, *м.* Праснак. *Янка есьць праснакі, а нам ні даець.* Пячонкі Расням. *Дай мне прасныка.* Галоўчыцы Калінінщчына. *Напікла праснакоў, узяўшы цеста з дзежкі.* Парадзіна Мсцісл.

ПРАСНО́К, -а, *м.* Праснак. *Маці сьпікла праснок.* Зоры Крыч. *У дарогу хоць праснок вазьмі замест хлеба.* Парадзіна Мсцісл. *Хлеба ні було, дык я на сьніданык праснок сьпікла.* Хвёдараўка Краснап.

ПРАСО́НКІ, *прысл.* Спрасоння. *Будзілі мы яго будзілі — бармочыць нешта прасонкі, а ні ўстаець.* Ушакі Чэрык.

ПРАСО́ЎВАЦЦА, *дзеясл.* Праваливаццa, прабівацца. *Марцовый сьнег ужо бываець мяккій і прасоўваецца пыд ныгамі.* Пірагова Мсцісл.

ПРАСО́ХНУЦЬ, *дзеясл.* Прасохнуць. *Павесь анучы на курчыну, піхай прасохнуць.* Гібалы Касцюк. *Павесь жупан над печкый, дык скора прасохніць.* Арцёмаўка Міласл.

ПРАСРО́ЧЫНЫЙ, *прым.* Пратэрмінаваны. *Ета білет прасрочыный, па ім нільзя ехаць.* Арцёмаўка Міласл.

ПРАСТА́РНАК, -а, *м.* Калочак, якім хлопцы прыбіваюць на начлезе лапці да зямлі ў соннага, для жарту. *Трэба яму прастарнак убіць у лапаць, як прачнецца, дык пысьмяёмся.* Хвёдараўка Краснап.

ПРАСТУ́ДА, -ы, *ж.* Прастуда. *Ня кутый так дзіцёнка, ён жа будзіць быяцца прастуды.* Слаўнае Мсцісл.

ПРАСТУДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Прастудзіцца. *Дужа халодна, адзявайся цяплей, ато прастудзіцца можна.* Асмолавічы Мсцісл. 2. Астыць, праветрыцца. *У хаці дужа жарка — трэба выйсьці на двор прастудзіцца.* Маластоўка Краснап.

ПРАСТУДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Прастудзіць. *Маргелку надзень, гылаву прастудзіш.* Хоцімск.

ПРАСТУ́ПАК, -пка, *м.* Праступак. *Хівасьць на быгацьце прыводзіць людзей да душагубства і ўсякіх іншых праступкаў.* Сохана Мсцісл.

ПРАСТУ́ПНІК, -а, *м.* Злачынец. *З турмы уцяклі некылькі чылавек крымінальных праступнікаў.* Сохана Мсцісл.

ПРАСТЫ́НУЦЬ, *дзеясл.* Прастыць, прастынуць. *Пыстаў бульбу ў печ, ато прастыніць.* Фастава Мсцісл.

ПРАСТЫ́ЎШЫЙ, *прым.* Прастуджаны. *Ладымір прастыўшый: бач, як кашліць.* Лютня Краснап.

ПРАСУ́НУЦЬ, *дзеясл.* Прасунуць. *Зачыні кубел ды засыўку прасунь.* Хвёдараўка Краснап.

ПРАСЫ́ПАЦЬ, *дзеясл.* Рассыпаць. *Із гарнца гарошын колькі я прасыпала на дарозе.* Пірагова Мсцісл.

ПРАСЫПНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Прачнуцца. *Прасыпнуліся тыя людзі і ўбачылі, што коняў іх німа.* Маластоўка Краснап.

ПРАСЬВЕ́ТА, -ы, *ж.* Прасвет. *Ні дывалі мужыку прасьветы, і быў ён цёмны да етыя пары.* Старае Сяло Мсцісл.

ПРА́СЬЛІЦА, -ы, *ж.* Прасніца, прылада прасці пражу. *Вазьмі прасліцу, прывяжы кудзелю і прадзі, не сядзі бяз дзела.* Фастава Мсцісл. *Мыя прасьліца дужа ёмкыя, як увяжыш кудзелю, дык і прыліпнець.* Камароўка Крыч.

ПРАСЬМЕ́ІНЫЙ, *прым.* Высмеяны. *Абсьміялі яго, і пайшоў прасьмеіный.* Палуж Краснап.

ПРА́СЬНІЦА, -ы, *ж.* [Прасніца], прылада, якая складаецца з сцябла і днішча; да сцябла прывязваецца кудзеля для прадзіва, а на днішча пралля садзіцца працi.

*Дрэнна хадзіць у супрыдкі з прасьніцай, бо яе некуды ўстаўляць.* Буліна Касцюк.

ПРАСЬЦЕ́НЫЧЫК, -чка, *м.* Прасценачак, частка сцяны паміж вокнамі. *Скасіўся ў маёй хаці прасьценычык, і вокны павыпірла.* Хвёдараўка Краснап.

ПРАСЬЦІРА́ДЛА, -а, *н.* Прасцірадла, тонкая посцілка. *Пара ўжо і прасьцірадла ны пасьцель пыслаць, на брудным я ні хачу спаць.* Ушакі Чэрык.

ПРА́СЬЦЬ, *дзеясл.* Прасці. *Уставай кудзелю прасьць, чаго ляжыш, думаіш, сыма спрадзецца.* Фастава Мсцісл.

ПРАСЯВА́ЦЬ, *дзеясл.* Прасяваць, сеяць на сіта. *Нада лепшы прасяваць муку, ато ў ёй асьцюлькі пападаюцца.* Пірагова Мсцісл.

ПРАСЯ́НІШЧА, -а, *н.* Прасянішча, месца, дзе было пасеяна проса. *На прасянішчы шмат травы, ныввяжы там каня.* Мацутаўка Расиян.

ПРАТА́ЛІНА, -ы, *ж.* Пратадіна, мясціна, дзе ўжо растаў снег. *Праталіны ўжо на полі паказаліся, хутка саўсім сьнег сыйдзе.* Фастава Мсцісл.

ПРА́ТАЦЬ, *дзеясл.* Біць. *Учора хлопцы Мацея добра пратапі, калі не адбілі лантушыша, то добра.* Галоўчыцы Калінінішчына.

ПРАТО́ПЛІНЫЙ, *прым.* Пратоплены [напалены]. *Калі хата пратопліныя, дык і вокны ні так мерзнуць.* Бяседавічы Хоцім. *Лазьня пратопліныя, можна ісьці мыцца.* Бабынічы Мсцісл.

ПРАТО́РЫЦЬ, *дзеясл.* Пракласці, пратаптаць. *Дарогу праторылі людзі, можна ўжо ехыць.* Палуж Краснап.

ПРАТРУБІ́ЦЬ ВУ́ШЫ. Надакучыць гаворкаю, шмат разоў гаварыць адно і тое. *Усё гаворыць і гаворыць пра адно, абрыдла слухаць — ты мне ўжо пратрубіў вушы гэтым.* Ушакі Чэрык.

ПРАТЭ́СЫ, -аў, *мн. л.* Пратэсы, прыналежнасць рэлігійнага культу. *Пынясьлі пратэсы ны магільля, мабыць, памёр хто.* Краснаполле.

ПРА́УДА, -ы, *ж.* Праўда. *Ніпраўда, дайду, айдзе праўда.* Палуж Краснап. *Чылавек праўды хочыць дайці.* Вербеж Чэрык. *Нібыццым праўду кажыць чылавек, а мо' і ўжэць.* Хоцімск.

ПРА́УДЗІЦЦА, *дзеясл.* Праўдзіцца. *Мы гыварылі, што на будучый нядзелі будзе дождж, вось яно і праўдзіцца.* Канічы Касцюк.

ПРАХАДЖА́ЛЫЙ, *прым.* Падарожны. *Здалёку ішоў гэсты прахаджалы — замарыўсь, прыстаў, ледзь ногі валочыць.* Ушакі Чэрык.

ПРАХАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Праходзіць. *Прахадзі, кум, дальшы ды садзісь на пол.* Гарбавічы Касцюк.

ПРАХАЛО́ДА, -ы, *ж.* Халадок. *Добра ў лесі ў гарачы дзень — у цяньку такая сабе прахалода.* Ушакі Чэрык.

ПРАХВАЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Прахапіцца, хутка ўстаць, прачнуцца. *Прахваціўся я, аж бачу — сьвітаець; дывай хучэй адзівацца.* Васілёўка Хоцім.

ПРА́ХНЫЙ, *прым.* Раскошны, пышны, багаты. *Прахны сьцяг у нашыга саюза.* Хоцімск.

ПРАХО́ДКА -і, *ж.* Праходка [прагулка]. *Ідзе, як пан ны праходкі — чуць ногі совае.* Парадзіна Мсцісл. *Мы хадзілі ў праходку.* Канава Хоцім.

ПРАХО́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Праходзіць. *Праходзіць восінь, зіма бліжыцца халодныя.* Ушакі Чэрык.

ПРАХО́ЖЫЙ, *прым.* Падарожны [прахожы]. *Ішоў нейкі прахожы, дык як накінуліcь ны яго сыбакі, ледзь адбараніўся.* Сохана Мсцісл.

ПРАХО́НА, *прысл.* Рэдка. *Прахона зымясіла хлеб — увесь расплываіцца на лыпаці.* Іваноўка Хоцім.

ПРАХО́НЫЙ, *прым.* Рэдкі. *Баюсь, яшчэ прахон будзіць хлеб, сып яшчэ мукі.* Арцёмаўка Міласл.

ПРАХО́Р, -а, *м.* Уласнае імя Прахор. *Вунь пашоў Прахор Васілёў.* Брылёўка Краснап. *Прахор застрэліў выўка.* Зоры Чэрык.

ПРА́ХТЫКА, -і, *ж.* Практыка. *Я ўжо маю прахтыку кабаноў смаліць, слава богу, за свой век наўчыўся!* Пірагова Мсцісл.

ПРА́ХЦІКА, -і, *ж.* Практыка. *На ўсё нада прахціка, ні знаючы, ня зьдзелыіш.* Арцёмаўка Міласл.

ПРА́ЦА, -ы, *ж.* Праца. *Тут ні мала прікладзена працы.* Гібалы Касцюк. *Каб цябе цямнула з тваёю працаю.* Тур'я Чэрык. *Трэба яму аплаціць за гэту працу.* Канічы Касцюк.

ПРАЦАВА́ЦЬ, *дзеясл.* Працаваць. *Э! Ніхай мыладыя працуюць — старым ужо атдыхаць пара.* Ушакі Чэрык. *У нас учора цэльный дзень працавалі шорнікі: сшылі дзьве сядзёлкі і два хамуты.* Бабынічы Мсцісл. *Ды мыя ўжо нязмога так працаваць, як бывала.* Дарагая Крыч.

ПРАЦАВІ́ТЫЙ, *прым.* Працавіты. *О, ён жа такі працавіты гаспадар — і часінкі біз работы ні пысядзіць.* Ушакі Чэрык. *Ён чылавек працавітый — працуе, як мага.* Гібалы Касцюк.

ПРАЦАВІ́ТАСЬЦЬ, -і, *ж.* Працавітасць, здольнасць чалавека да працы. *Мой сусед маіць прыцавітасьць надзвычайную.* Сохана Мсцісл.

ПРАЦАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Працадзіць. *Працадзі малако!* Крычаў.

ПРАЦІВЕ́НСТВА, -а, *м.* Працівенства. *Працівенствам тут нічога ні возьміш — трэба рабіць так, як кажуць.* Ушакі Чэрык.

ПРАЦУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Працаваць. *Гультай, ня хочыць працуваць, а толькі зьесьці яму дай.* Новы Дзедзін Міласл. *Працуй да поту — пыд'ясі ў ахвоту.* Сохана Мсцісл.

ПРАЦЬ, *дзеясл.* Мыць бялізну пры дапамозе праніка. *Пышла праць плацьця ды абмачылася чыста.* Горкі Краснап. *Пойдзем на рэчку плацьця праць.* Вярбоўка Расиян.

ПРАЦЯ́Г, -у, *м.* Працяг. *Ну дык гэта ж працяг яго гаворкі — той жа раз ён ні кончыў быў гыварыць. На працягу ўсёй дарогі ён ні дывай мне быту сваёй гаворкай.* Ушакі Чэрык.

ПРАЦЯКА́ЦЬ, *дзеясл.* Працякаць. *Стрыха працякае, нада пуправіць.* Тур'я Чэрык. *Лодка працякае, на ёй ехыць нібяспечна.* Мсціслаў.

ПРАЧА́ХНУЦЬ, *дзеясл.* Прастынуць. *Ні хвытайцяя бліноў гырачых, няхай трошку прачахнуць.* Куркаўшчына Мсцісл.

ПРА́ЧКА, -і, *ж.* Прачка. *Намётка ў прачкі, а сарочка ў швачкі.* Новы Свет Краснап.

ПРАЧНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Прачнуцца. *Дос вам ужо спаць — пара прачнуцца.* Хоцімск.

ПРАЧУРА́ЦЦА, *дзеясл.* Схамянуцца, прыйсці ў сябе пасля глыбокага сну. *Устанька, прачурайся: людзі дайно ны работу пайшлі!* Гібалы Касцюк.

ПРАЧУ́ТКА, -і, *ж.* Чутка, пагалоска. *Німа аб ім ніякай прачуткі — як у воду ўпаў чылавек.* Палуж Краснап.

ПРАЧУХА́НКА, -і, *ж.* Прачуханка, праборка. *Дай яму сяньні добрую прачуханку, будзя помніць да новых венікаў.* Хвёдараўка Краснап.

ПРАЧУ́ХЫЦЬ, *дзеясл.* Сцяміць, зразумець. *Сайка атразу прачухыў, што дрэнна яму будзя, і дай ходу аттуль.* Палуж Краснап.

ПРАЧЫ́СЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Прачысціць. *Люлька ні цяніць, нада цыбук прачысьціць.* Мсціслаў.

ПРАШНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Прачнуцца. *Баба прашнулыся і ўжыгнулыся, што грошый німа.* Ельня Краснап. *Сонца ўжо сышло, як я прашнуўся.* Сохана Мсцісл.

ПРАШТРО́ПІЦЬ, *дзеясл.* Прапусціць, прагледзець. *Праштропіў ладную пагоду сеіць жыта, а цяпер жджы яе у мора.* Слаўнае Мсцісл.

ПРАШЫ́КЫЦЦА, *дзеясл.* Марна распусціць грошы, жывучы не па сродках. *Былі ў яго і грошы, было і хыдзяйства, як у людзей, а січас прашыкыўсь і вопріткі ні маіць.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПРАШЫ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Распусціць [грошы], шырока жывучы. *Усе грошы зы дарогу прашыкаў, а цяпер і хлеба незашта купіць.* Маластоўка Краснап.

ПРАШЭ́СЦЬ, -і, *ж.* Адлегласць ад навоя да навоя ў кроснах. *Доўгыя ў тваіх кроснах прашэсьць.* Хвёдараўка Краснап. *Дзьве цэўкі сатчэш, ну і прашэсьць будзіць, тады і ныматывай ны навой.* Слаўнае Мсцісл.

ПРЕ́ДМІТ, -а, *м.* Прадмет. *Якей ета предміт і ды чаго ён гадзіцца?* Восаў Краснап.

ПРЕЧ, *дзеясл.* Смажыць. *Пустушкі рысклалі цяпло і сталі преч сала.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІАДЗЕ́ЦЦА, *дзеясл.* Прыадзецца, адзецца трохі лепей, як звычайна. *Пыдажджы, нада ж троху пріадзецца, тады ісьці на вічаріну.* Гібалы Касцюк. *Лахудра ты, ідзі пріадзеньса хоць у свята.* Слаўнае Мсцісл.

ПРІБА́УТКА, -і, *ж.* Прыказка. *Дзядзька наш ведыіць шмат розных прібаутык.* Васілёўка Хоцім.

ПРІБІ́ТЫЙ, *прым.* Прыбіты. *Лата прібіта на крюках.* Пухнава Расням.

ПРІБІ́ЦЬ, *дзеясл.* Прыбіць. *Вазьмі кусок бляхі і прібі кыла печы, каб ні гарей мост.* Слаўнае Мсцісл.

ПРІБЛЮ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Ашчадзіць, захаваць на будучы час. *Нада пріблюсьць трохy сыруў к масьлінкі; кылі схуваць у погрібі, дык целы будуць.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІБО́РЫ, -ыў, *мн. л.* Прыборы, уборы. *Яе пріборы на ўсё раньня: два часы ныдзіваіцца.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІБРА́ЦЬ, *дзеясл.* Прыбраць. *Вот жа пыд ныгамі выляецца долыта, а ніхто ня хочыць прібраць, так і ходзяць па ім — нікому дзела німа.* Лешчынка Мсцісл.

ПРІБУДУВА́НЬНЯ, -я, *н.* Прыбудаванне. *Ды хаты прібудування дзелыць, нійначай сыну аддзельную кватеру.* Тур'я Краснап.

ПРІБЫДА́ЦЬ, *дзеясл.* Прабасці [прапароць рогам]. *Ні пускай кыня ў статык: крый бох яго бык прібыдаць рогым можыць.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПРІБЫ́ТНЫЙ, *прым.* Карысны, даходны, прыбытковы. *Гандыль — дзела прібытныя, калі зы яго ўзяцца, умеўшы.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПРІБЫ́ТЫЧНЫЙ, *прым.* Прыбытковы. *Сад у Саўкі прібытычный: штогод даець яму рублёў трыста-чатырі́ста.* Брылёўка Краснап.

ПРІБЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Прыбыць, прыехаць. *Як жывы будзем, дык і ды вас прібудзем.* Новы Свет Краснап. *А йдзе ён будзіць, ка мне прібудзіць,* ‖ *Ка мне прібудзіць, са мной жыць будзіць.* З нар. песні, М. Г. 56.

ПРІБЯРЁНЫЙ, *прым.* Прыбраны. *Хата к сьвяту прібярёна ўжо.* Дарагая Крыч. *Прасілыся ў бога пыглядзець сваё дзіцяці:* ‖ *Ці хорыша прібярёна, ці ны куце пысаджона?* З нар. песні, М. Г. 15.

ПРІВА́БА, -ы, *ж.* Прываба, прынада. *Сьціпаніда — дзеўка-пріваба: усіх хлопцыў пріваблівыіць.* Мануйлы Краснап.

ПРІВА́БІЦЬ, *дзеясл.* Прывабіць, прыхіліць. *Чым іна прівабіла ды сябе? Іна ні тыкая ужу красівыя, а вот пыдыбаецца йму.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПРІВА́БНА, *прысл.* Прывабна. *Прівабна пахніць кыўбасой с часныком.* Жлобін.

ПРІВА́БНЫЙ, *прым.* Прывабны, завідны. *Прівабный хлопіц, нечыга кызаць!* Залачэўка Краснап.

ПРІВАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Прыводзіць. *Толькі сажнём ячмень — січас ны ячыньня прівадзі пасьвіць коні.* Слаўнае Мсцісл.

ПРІВАЛО́КВЫЦЬ, *дзеясл.* [Прывалакаць], прыцягваць. *Наліха ты прывалокваш двору усякыю набрідзь.* Маластоўка Краснап.

ПРІВЕ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Прывесці. *Ці табе цяжка было майго кыня прівесьць? Ты ж ведыіш, што мне часу німа схадзіць.* Гарцуеўка Краснап.

ПРІВЕ́ТКА, -і, *ж.* Прывет, прывітанне. *Відзіў у горідзі Яўмена, пірідаў усім вам прівеtку.* Краснаполле.

ПРІВІЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Прывязаць. *Нада кыня к стаўбу прівізаць, ато ён уцякець.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІВІЗІ́НЬ, -зьня, *м.* Прывязка, раменчык, якім прывязваюць біч да цапільна.

*Прівізінь атырваўсь, і бічум чуць гылаву ні разьбіў.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІ́ВІЗКА, -і, *ж.* Прывязка, тонкая жардзінка, якою прывязваецца рад саломы на страсе ў часе крыцця. *Пыдай сюды троху даўжэйшыю прівізку, ато етыя ні дыстаець на ўсю салому.* Пухнава Раснян. *Прівяжы ету прівізку у трох местах, ато можыць выіхаць салома.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІ́ВІЗЬ, -і, *ж.* Прывязь. *Нада сыбаку дзіржаць на прівізі, ны ланцугу, ато ён на людзей кідаіцца.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІВІЛЕ́Я, -і, *ж.* Прывілей. *Пычаму Нупрею пасоб'я далі, а Парьмену ні даюць, завошта Нупрею тыкая прівілея?* Краснаполле.

ПРІВІ́НЧЫНЫЙ, *прым.* Прышрубаваны, прымацаваны шрубай. *Дошчычка прівінчыныя, ні атарвеш, нада атвінціць.* Шумячы.

ПРІВЫ́КНУЦЬ, *дзеясл.* Прывыкнуць. *Прівыкніць, дык будзіць жыць, нічога.* Слаўнае Мсціл.

ПРІВЫЛА́КЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Прывалакаць. *Што нада, што й ні нада — усё двору прівылакыіць, от ужу скнара.* Палуж Краснап.

ПРІВЯЗЬЦІ́ [прівéзьць], *дзеясл.* Прывезці. *Зьезьдзі прівязі тоя жыта, што зысталося на полі, ато, ноўды, дождж уночы пойдзіць.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІГАВО́Р, -а, *м.* Прыгавор. *Прігавор зьдзелылі, штоб высіліць зь дзіреўні етых сыпікулянтыў.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПРІГАДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* [Прыгадзіцца], прыдацца. *Вазьмі етыга дубка — на вось прігадзіцца.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІГАЖО́СЬЦЬ, -і, *ж.* Прыгажосць. *Што ў яго за прігажосьць? Чылавек, як чылавек.* Новы Свет Краснап.

ПРІГАЖСТВО́, -а, *н.* Прыгажосць. *Прігажство яго абычайныя: || Нос кыпылом, бырыда кляўцом!* З нар. песні, М. Г. 35.

ПРІГАЖЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Прыгажэць, рабіцца больш прыгожым. *Дзеўкый была нявідныя, а вышла ўзамуж — прігажэць стала.* Маластоўка Краснап.

ПРІГЛА́ДЖЫНЫЙ, *прым.* Прыбраны [акуратны, прычасаны]. *Пятрок усігда прігладжыный, чыстый: ён ні выйдзіць у пырьваным.* Хвёдараўка Краснап.

ПРІ́ГЛІД, -а і -у, *м.* [Прыгляданне], асцярога. *С прігрлідым бярісь за ету работу, штоб ні абмішуліцца.* Гарцуеўка Краснап.

ПРІ́ГЛІДКЫМ, *прысл.* Назіркам. *Андрей пышоў у лес, а я прігрлідкым за ім усьлед.* Палуж Краснап.

ПРІГЛЯ́ДЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Знаёміцца, азнаямляцца [прыглядацца]. *Пычаў прігрлядывыцца к дзелу, бачу — нічога хітріга німа.* Хвёдараўка Краснап.

ПРІГНЕ́ЧЫНЫЙ, *прым.* Прыгнечаны. *Нейкій ён някемлівый, прігнечыный: слова баіцца скызаць.* Лютня Краснап.

ПРІГНІТА́ЦЬ, *дзеясл.* Прыгнятаць. *Усю жысь прігніталі нас паны ды урядніκі.* Восаў Краснап.

ПРІГНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Прыгнуць. *Я ўбіў гвозд ды хацеў яго прігнуць, а ён узяў ды зламіўсь.* Арцёмаўка Касцюк.

ПРІГО́ЖА, *прысл.* Прыгожа. *Як прігожа взыйшоў мой лён: гусьцінькій, ровнінькій, як шчотка.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІГО́ЖЫЙ, *прым.* Прыгожы. *Пятрок хлопец прігожый.* Гібалы Касцюк. *Яго дычка нізвычайна была прігожа.* Бяседавічы Хоцім.

ПРЫГО́ЖЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Прыгажосць, харəство. *Глянь, ікая прігожысьць там зы рякой: лес, луг.* Мсціслаў.

ПРІГО́Н, -у, *м.* Прыгон, паншчына. *Мой дзед яшчэ помніць прігон, як пану служылі.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІГРІБА́СТЫЦЬ, *дзеясл.* Прыгарнуць, прыглабаць, заграбсці, забраць нахальна. *Яму што ні пупадзі — усё прігрібастыя, зьвесный грібастыла.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПРІ́ГЫВЫР, -а, *м.* Прымаўка. *Нідарым ёсьць прігывыр: «Хто пытаіць — тэй ня блудзіць». Штоб ня спыталі, то ня пріехылі б.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІДЗЕ́ЛЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Прыладжваць. *Ехылі мы ехылі, а тут атоса пырвалысь і загвыстка пылумалысь: нада було рыспрігаць каня і прідзелывыць к аглоблє другую атосу.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Прыдзецца, давядзецца. *Хата згарела, усё пыгарела, прідзіцца яму пы людзях з торбыю цігацца.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІДЗІШАВІ́ЦЬ, *дзеясл.* [Прадзешавіць], прадаць затанна. *Прідзішавіў ты свайго кыня, прідаўшы: можна было дыражэй узяць зы яго.* Мсціслаў.

ПРІДЗЯШЭ́ЎЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Назнарок зніжаць цану. *Як пубачыў, што тыварій быгата нывязлі на торг, дык і Янкіль прідзяшэўлівыць пычаў.* Рослаў.

ПРІДЛЫГА́ЦЬ, *дзеясл.* Прапаноўваць. *Нада табе було прідлыгаць, ныбівацца, каб ён пазычыў у цябе грошы.* Слаўнае Мсціл.

ПРІДМЕ́Т, -а, *м.* Рэч. *Ён найшоў нейкій прідмет ды схуваў у руке.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІДСТА́ВІЦЬ, *дзеясл.* Даставіць. *Возьнік паехыў у пікарню: нада к заўтріму хлеб у кыпіряціў прідставіць.* Краснаполле.

ПРІДУ́МЫЦЬ, *дзеясл.* Прыдумаць. *Прідумый-ка якую-нібудзь казку, а мы пaслухыім.* Слаўнае Мсціл. *Чылавек прідумыў способ, што за тысячу вёрст можна чуць рызгавору.* Палуж Краснап.

ПРІ́ДУРЬ, -і, *ж.* Прыдур, вар'яцтва. *Ны яго ноды находзіць прідурь, тады меліць языком, што прідзе у гылаву.* Шумячы.

ПРІДУРЬКЫВАТЫЙ, *прым.* Прыдуркаваты. *Ён жа такей нейкій прідурькыватый — ня ўмеіць мызгамі шывяліць.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІЁМ, -у, *м.* Прыём. *У етым гаду быў большый пріём у сімігодку, чым у прошлым.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІЁМКА, -і, *ж.* Прыём. *Пычылась пріёмка у сылдаты, дык хлопцы пьяныя ходзяць.* Краснаполле.

ПРІЕ́ХЫЦЬ, *дзеясл.* Прыехаць. *Сваты ніжыдана пріехылі, мы й ня думулі, штоб етыя сваты пріехылі.* Арцёмаўка Міласл. *Мой шахцёр ужу пріехыў, а ўзімку зноў паедзіць ны шахты.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІЖАХЫЦЬ, *дзеясл.* Хутка прыбегчы. *З палустанку зы час пешшу пріжахый.* Восаў Краснап.

ПРІЖДАЦЦА, *дзеясл.* Дачакацца. *Пріждалісь і мы луччый жызьні.* Шумячы.

ПРІЗЕМІСТЫЙ, *прым.* Прыземісты, нізкі. *У яго два сыны, адзін тонкій, віcокій, а другей пріземістый, здаровый.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІЗНАНЬНЯ, -я, *н.* Прызнанне. *Судзьдзя кажыць, што прізнаньня зьміншаіць вінуватысьць.* Палуж Краснап.

ПРІЗЫСТАЦЦА, *дзеясл.* Астацца ззаду. *А йдзе ж Міхась, чаму ня прішоў? Хутка прідзець, ён троху прізыстаўсь з Пракопым.* Дарагая Крыч. *Як пушчу я два талеры па бітый дарозі, ‖ Адзін талер пыкаційся, другій прізыстайся.* З нар. песні, М. Г. 90.

ПРІКАЛОЦЬ, *дзеясл.* Пракалоць. *Вызянку нада сьпірва прікалоць голкый, штоб выда выцікла, а тады завізаць чыстый вяхоткый.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПРІКАЦІЦЦА, *дзеясл.* Прыкаціцца. *Твой перьсцінь прікаційсь ды мяне — будзіш маёю.* Бардзіч Краснап.

ПРІКІДАЦЦА, *дзеясл.* Пападацца. *Грібы ў лесі ужу тут-там прікідаюцца.* Высокі Бор Краснап.

ПРІКІДЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Прыкідвацца, прытварацца. *Дос табе ужу прікідывыцца, віжу я усі твае хітрысьці.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІКЛАСЬЦЬ, *дзеясл.* Прыкласці. *Нада падырожнікым нарыў прікласьць — січас праврвець.* Іванаўка Хоцім.

ПРІКЛЮЧЫЦЦА, *дзеясл.* Здарыцца. *Вот жа буваіць, пріключыцца нешта з чылавекым: адняло рукі і ногі і ляжыць, як бірвяно.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІКОЧЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Прыкочвацца. *Усі яблыкі прікочвыюцца да зыгароджы, упаўшы з яблыні.* Восаў Краснап.

ПРІКРА, *прысл.* Прыкра. *Мёду многа ні зьясі — прікра станіць і дайжа горька.* Арцёмаўка Міласл. *Ны такую работу і глядзець стала прікра.* Гібалы Касцюк.

ПРІКРАСА, -ы, *ж.* Аздоба. *Дзеўка й біз прікрасы відныя. Каша біс прікрасы ніўкусныя.* Хвёдараўка Краснап.

ПРІКРЕПКА, -і, *ж.* Прымацаванне. *Прікрепка слабыя: січас атарвецца.* Шумячы.

ПРІКРІЦЦА, *дзеясл.* Апрыкрыць, надакучыць. *Ну й прікріўся ж етый дзіцёнык: і ноч і дзень крічыць.* Гібалы Касцюк.

ПРІКУРІВЫЦЬ, *дзеясл.* Прыкурваць. *На гнілой бярёзі вырысла быльшая губа, яе можна высушыць і прікурівыць тады, калі высікаіш агонь вогнівым.* Слаўнае Мсцісл.

ПРІКУРІЦЬ, *дзеясл.* Прыкурыць. *Пыдажджы, ня кідый недакурык, дай мне прікуріць.* Бардзіч Краснап.

ПРІКЫЗАЦЬ, *дзеясл.* Загадаць. *Кымісар прікызаў, штоб ніхто ні выіжджаў із горыда.* Клімавічы.

ПРІКЫЗКА, -і, *ж.* Прыказка. *Як тая прікызка гаворіць: цішы едзіш, дальшы будзіш.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІЛАДЖЫВЫНЬНЯ, -я, *н.* Прыладжванне, прыстасаванне. *Нялёгка ёй дысталося пріладжывыньня да еткыга чылавека, як яе сьвёкыр, але ж затоя цяпер жывуць мірна.* Бяседавічы Хоцім. *Тут патребна пріладжывыньня, а ён пріладжвыцца ні ўмеіць.* Шумячы.

ПРІЛАДЗІЦЦА, *дзеясл.* Прыладзіцца, прыстасавацца. *Яна тыкая, што ўмеіць пріладзіцца ды ўсякыга.* Горня Хоцім.

ПРІЛАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Прыладзіць. *Касу да дзірьжыка сам ні пріладзіш — пупрасі дзядзьку Марьціна, і ён пріладзіць.* Лютня Краснап.

ПРІЛАЗА, -ы, *м.* і *ж.* Пралаза. *Радзівон — такей прілаза, што ўсюдых дыстаніць, атусюль выдзіріць.* Мануйлы Краснап.

ПРІЛАДКА, -і, *ж.* Дастасаванне. *Прiладка ў клёпкых ніроўныя, во бочка й цякець.* Гарцуеўка Краснап.

ПРІЛАЎЧЫЦЦА, *дзеясл.* Прыладзіцца, набыць здольнасць. *Дай мне толькі прілаўчыцца, а тады я спраўлюсь зь етый работый.* Канава Хоцім.

ПРІЛІПАЦЬ, *дзеясл.* Прыліпаць. *Альховый ліст смалістый, пріліпаіць к руке.* Новы Дзедзін Міласл.

ПРІЛІПНУЦЬ, *дзеясл.* Прыліпнуць. *К дубу смыла ні пріліпніць.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІЛІЧЫВЫНЬНЯ, -я, *н.* Размеркаванне [разлік], разрахунак. *Нада зьдзелыць прілічывыньня, куды што пайдзець: што прыдаць, што сабе аставіць, а што аддаць пазыкі.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІЛІЧЫЦЬ, *дзеясл.* Прылічыць. *Прілічы да етыга і тыя грошы, што пытраціў ны гарелку.* Новы Свет Краснап.

ПРІЛУЧЫЦЬ, *дзеясл.* Далучыць. *Мы сваіх авец прілучылі да гурту.* Гарцуеўка Краснап.

ПРІЛЯМЫК, -мка, *м.* Прылямак, разрэз у сарочцы наперадзе і нашытая на яго істужка палатна, у якой прарэзваюцца петлі. *Я хачу вышыць у сарочцы каўнер і прілямык, а рукавы ніхай так астануцца.* Слаўнае Мсцісл.

ПРІЛЯЦЕЦЬ, *дзеясл.* Прыляцець. *Пріляцелі жавырынкі — першыя вістуны вясны.* Слаўнае Мсцісл.

ПРІМАЗЫЦЦА, *дзеясл.* Прыстаць да каго, прылучыцца ў рабоце. *Цяпер ён хырашо зырыбатываіць, нада к яму прімазыцца як-ліба, дык можна будзіць пыдзырaботыць.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІМАХЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Ираліčвацца. *Ета табе навука — ні будзіш другей раз прімахывыцца.* Крычаў.

ПРІМАЦЬ, *дзеясл.* Прымаць. *Мяне хлопцы к сабе ні прімаюць гуляць.* Шарэйкі Касцюк.

ПРІМАШКА, -і, *ж.* Пралічка. *Ты ж глядзі добря, ні зьдзелый прімашкі з пакупкый кыня.* Мсціслаў. *Усё правільна дзелый, а пысьля прімашку зьдзелый.* Маластоўка Краснап.

ПРІМЕРЬНІК, -а, *м.* Чалавек, які служыць прыкладам для другіх. *Васіль — прімерьнік для усіх: ён ніколы ніпраўды ні пацерьпіць.* Мануйлы Краснап.

ПРІМЕТНЫЙ, *прым.* Прыметны [з прыметамі]. *Наш быран пріметный, у яго адзін*

*рог маліңкій, а другей вялікій.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІМЕ́ЧЫНЫЙ, *прым.* Намечаны, адзначаны. *Нашы авечкі усі прімечыныя— у іх вухі разрезыныя.* Палуж Краснап.

ПРІНА́ДА, -ы, *ж.* Прынада. *Сып у ряку прінаду длі рыбы, а заўтрі з вудый прідзем, наловім.* Мсціслаў. *Прінаду длі ваўкоў рысклалі атрючыныю.* Палуж Краснап.

ПРІНА́МСІ, *прысл.* Прынамсі. *Атдай яму доўг, як-небудзь піріжывём, прінамсі рупіць ня будзіць.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПРІНЕ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Прынесці. *Баба дала мне бруквы, моркві, репы, дык я там еў і двору прінёс.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІНУ́ЖА, -ы, *ж.* Прынука [прымус]. *Ні с ахвотай, а пад прінужый дзелыю.* Шумячы.

ПРІНУЖДА́ЦЬ, *дзеясл.* Прымушаць. *Біда у гысьцях: ужо ныясіся, а тут ішчэ прінуждаюць — хуць пумірай, ні атвяжыська.* Слаўнае Мсцісл.

ПРІНУ́КА, -і, *ж.* Прынука [прымус]. *Лодырь етый ро́біць нічога ні хочыць, толькі пад прінукый, біс прінукі ні з места.* Хвёдараўка Краснап.

ПРІНУ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Прымусіць. *Лінція нада прінукыць к рабоці, іначы нічога ня будзіць.* Слаўнае Мсцісл.

ПРІНЯСЬЦІ [пріне́сьць], *дзеясл.* Прынесці. *Нада йшчэ прінясьці дроў у печку, дык будзець ужу усё зьдзелына.* Канічы Касцюк. *Прінясі мне цэбыр патоўч бульбу.* Слаўнае Мсцісл.

ПРІНЯ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Прыбраць з дарогі ўбок. *Нада етый чурбак прінящь к сьцяне, штоб ні мішаў.* Бяседавічы Хоцім. *Лён пымялі, дык нада мяльля згарнуць у кучу і мялкі прінящь.* Арцёмаўка Міласл. 2. Узяць да сябе ў хату. *Бацька безбаронна прінияў бабыля жыць разым з намі.* Слаўнае Мсцісл.

ПРІПА́ДЫК, -дка, *м.* Прыпадак, приступ эпілепсіі. *У яе, знаць, пріпадык, яе то ў холыд, то ў жар кідаіць.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІПА́ДЫМ, *прысл.* Выпадкам. *Пріпадым, ты ні устрічаў майго Радзівона?* Маластоўка Краснап. *У вас, пріпадым, не будзіць гэбліка ны час якей?* Палуж Краснап.

ПРІПА́ЙВЫНЬНЯ, -я, *н.* Прынітаванне [прыпайванне]. *Нувучы мяне, дзядзька, як эдзелыць пріпайвыньня, у мяне нічога ні палучаіцца.* Гарцуеўка Краснап.

ПРІПА́ЙВЫЦЬ, *дзеясл.* Прынітоўваць [прыпайваць]. *Бацька панёс у масцірьскую ключ пріпайвыць: атламілысь галоўка.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПРІПАМІ́Н, -а, *м.* Успамін, згадка. *Дзед наш дужа хорыша рысказыіць свае пріпаміны — паслухыць пріемна.* Мануйлы Краснап.

ПРІПА́Р, -у, *м.* Прыпар, цёплая, вільготная пагода. *Калі б такей пріпар пыстыяў нядзелю, засевы пыправілісь бы.* Гібалы Касцюк.

ПРІПА́СЬЦЬ, *дзеясл.* Здарыцца [выпасці]. *Зайшоў я ў тую сталоўку ў горідзі, і пріпала так, што зы адзін стол прісели два цыганы.* Мсціслаў.

ПРІПІ́К, -а, *м.* Прыпек, прыпечак, лаўка каля печы. *Сядзь на пріпік — печка гыряча, дык січас нагреісься.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІПІ́КІ, -ыў, *мн. л.* Упіканне. *Што й та за жысьць? За ўсё — ўсякыя пріпікі, ік бы я іх хлеб ем.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПРІПІНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Прыхіліцца. *Дзітвыря пріпінулысь адзін ды аднаго і заснулі седзічы.* Хвёдараўка Краснап.

ПРІПЛЮ́ШЧЫЦЬ, *дзеясл.* Прыплюшчыць. *Нада пріплюшчыць адно вока, а другім глядзець, дык луччы відна.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІПЛЯСЬЦІ́ [пріпле́сьць], *дзеясл.* Прыплесці. *Пріпляці ету істужку к касе.* Шамава Мсцісл.

ПРІПРЫУЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Прыпраўляць. *Мяса нада чыста вымыць і тады толькі пріпрыўляць гаршкі.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІПЫДА́ЦЬ, *дзеясл.* Прыпадаць, здарацца [выпадаць]. *Ноды пріпыдаіць, што й куріца пітухом пяець.* Казельская Буда Краснап.

ПРІ́ПЫЗНА, *прысл.* Пазнавата. *Ішоў я двору ўжу пріпызна було, сонца зайшло, а йшчэ відна було.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІПЫЯ́НЫЙ, *прым.* Прынітаваны [прыпаяны]. *Крант к сымувару пріпыяный.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІРАХУВА́НЬНЯ, -я, *н.* Падлік. *Зьдзелыў я прірахуваньня — ні хыпаіць на зіму корму на двое коні: нада аднаго прыдаць.* Іванаўка Хоцім.

ПРІРЕ́ЗЫЦЬ, *дзеясл.* Зарэзаць хворую ці пакалечаную жывёлу. *Карова нагу злымала — нада пріреэыць, штоб ні пріпала.* Палуж Краснап.

ПРІРІКА́НЬНЯ, -я, *н.* Прааракаванне [прадказванне]. *Старыі людзі ўмеюць пріркання ны пагоду дзелыць: пу вясьне — якій урыджай будзіць.* Восаў Краснап.

ПРІРО́ДА, -ы, *ж.* Прырода. *Пріpода яго тыкая — ён атвеку такей.* Б. Хутары Краснап.

ПРІСА́ДА, -ы, *ж.* Ложа стрэльбы. *Нада зьдзелыць у ружжо новую прісаду, ато старыя рыскалолысь.* Слаўнае Мсцісл.

ПРІРО́УНІНЫЙ, *прым.* Прыраўнаваны. *Дді здачы пріднапогу два пуды аўса прірбўніныя да пуда жыта ці пшаніцы.* Краснаполле.

ПРІСВАЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Прысваенне. *Прісваеньня чужой ўласнысьці — ўсё роўна што крадзеж.* Брылёўка Краснап.

ПРІСВО́ІЦЬ, *дзеясл.* Прысвоіць. *Ён любіць чужоя што-ліба сабе прісвоіць; у мяне пазычыў долыта, а цяперь і ні пумінай яму.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІСІ́Л, -а, *м.* Гвалт [насілле, прымус]. *Над ім быў учыніт прісіл, інaчый ён бы ні аддаў сваіх грошы.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІСІ́ЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Прымушаць. *Прісілівыць яго ніхто ня будзіць, ніхай як хочыць так і дзелыіць; і прасіць яго тожа нечыга, сам доўжын знаць.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІСІ́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Прымусіць. *Ні пы сваёй волі ён ажыніўсь з Хадорій — бацьк-*

*ка прісіліў зы яе быгацьця.* Маластоўка Краснап.

ПРІСІЛЬВЫЦЬ, *дзеясл.* Прымушаць, змушаць. *Ні пайду я ўзамуж зы Якыва, а будзіш прісільвыць — зьбігу ат вас.* Шумячы.

ПРІСМАЛІЦЬ, *дзеясл.* Прысмаліць, прыпячы. *Ды і жарка ж стала, во прісмаліла!* Гібалы Касцюк.

ПРІСНАСЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Прыладзіць. *Я сяньні пріснасьціў борыну, заўтрі паедзім сеіць.* Васілёўка Хоцім.

ПРІСПАСОБІЦЦА, *дзеясл.* Прыстасавацца, прыладзіцца. *У яго дренна выходзіць; пакуль ён пріспасобіцца, а тады пайдзець шыбка й хырашо.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІСПАСОБЛІНЬНЯ, -я, *н.* Прылада. *Ны жаткых ёсьць такоя пріспасобліньня, што снапы вяжыць вярёвычкый.* Крычаў.

ПРІСПЫСАБІЦЦА, *дзеясл.* Пріспасобіцца [прыстасавацца]. *Ніяк ні магу пріспысабіцца ды тваёй хады — ні пупаду ў ногу.* Трубільня Краснап.

ПРІСПЫСАБЛЕНЬНЯ, -я, *н.* Прыстасаванне. *Пріспасобіўся, кажыш? Але дорыга яму стала ета пріспысабленьня.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІСТАВАЦЬ, *дзеясл.* Прыставаць, надакучваць з просьбаю. *Стаў ка мне пріставаць, як смала, штоб я яму рыскызаў.* Арцёмаўка Мілаcл.

ПРІСТАВІЦЬ, *дзеясл.* Прыставіць. *Пріставілі лесьніцу, ён і пылез на крышу.* Арцёмаўка Мілаcл.

ПРІСТАЦЬ, *дзеясл.* Прыстаць, стаміцца. *Чуць двору наныч дыцягнулісь — коні саўсім прісталі, думалі, у лесі зыначуім.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІСТУПКА, -і, *ж.* Прыступка. *Пріступкі на лесьвіцах былі редкі, дык было цяжка паднімацца ўверьх.* Слаўнае Мсціcл.

ПРІСТУПЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад пріступка. *У лесьніцы пріступычка верьхнія злумалысь, нільзя цяпер узьлезьць ны гару.* Арцёмаўка Мілаcл.

ПРІСТЫВАЦЬ, *дзеясл.* Прыставаць. *Сыбака так назойна прістываў і кідыўся, каб укусіць, што я чуць адбыраніўся.* Слаўнае Мсціcл.

ПРІСТЫНЯ, -і, *ж.* Прасцірадла, посцілка з белага палатна. *Зысьцялі, дочка, чыстыю прістыну чылавеку.* Маластоўка Краснап.

ПРІСТЫУЛЯЦЦА, *дзеясл.* Прыкідвацца. *Дос ужо табе прістыўляцца дурачком.* Слаўнае Мсціcл.

ПРЫСУДЗІЦЬ, *дзеясл.* Прысудзіць. *Суд прісудзіў яму пяць гадоў цюрьмы; ён яшчэ хочыць абжалывыць у вышэйшый.* Слаўнае Мсціcл.

ПРІСУСЕДЗІЦЦА, *дзеясл.* Прысуседзіцца. *Ета нада ўмець так прісуседзіцца, як ён прісуседзіўся к Івану: цяперь у іх усё йдзець зы адно — умесьці работыюць, умесьці й пьюць.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІСЬПЕЦЬ, *дзеясл.* Паспець. *Бацька ікрас прісьпеў к абеду: ні спызьніўсь.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПРІСЬЦЕН, -а, *м.* Старана. *Поўны прісьцен наложын сена, і ўсё плачыць, што мала, во ўжо нінаеда.* Пухнава Раснян.

ПРІСЬЦЯРЕГЧЫ [прісьцярежч], *дзеясл.* Падсцерагчы, падпільнаваць. *Хлопцы прісьціряглі яго, як ён ішоў двору, і добряткі ныдывалі.* Брылёўка Краснап.

ПРІСЯГА, -і, *ж.* Прысяга. *Нывыбранцы прысягу прымаюць.* Клімавічы.

ПРІСЯГНУЦЬ, *дзеясл.* Прысягнуць, даць прысягу. *А ці можыш ты прісягнуць, што ета — праўда? Прысягну, што праўда, сам відзіў.* Новы Дзедзін Мсціcл.

ПРІСЯДЗІСТЫЙ, *прым.* Прыземісты. *Чылавек ён прісядзістый, у плічах шурокій — мядзьведзя пуваліць.* Хвёдараўка Краснап.

ПРІСЯЖНЫЙ, *прым.* Прасяжны. *Калі мне ня веріця, дык у мяне ёсьць прісяжнэй, ён вам прісягнець пірід іконый, што ўсё, што я гываро—праўда.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІТВЫРЯЦЦА, *дзеясл.* Прыкідвацца. *Запытай у яго, дык ён станіць прітвыряцца, што ні чуў і ні бачыў і нічога ня ведыць.* Арцёмаўка Мілаcл.

ПРІТКА, *прысл.* Хутка. *Дзеўка рыбыцяшчая, спріўляіцца з работый прітка і хорыша.* Тур'я Краснап.

ПРІТУГА, -і, *ж.* [Туга], нудны настрой. *От, прітуга міне агарьнула: месца сабе ні знайду, плакыць хочыцца.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПРІТУЛІЦЬ, *дзеясл.* Прытуліць, прыхінуць. *Сірыта ён, німа яму куды гылаву прітуліць.* Арцёмаўка Мілаcл.

ПРІТУХЛЫЙ, *прым.* Прытухлы. *Нам сяньні аддалі пазыкі — кусок сала, дык ён ужу прітухлый, я яго і хырашо выпрігла ны скыўрадзе, а ўсё ж ня то, што сьвежыя — пахніць.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІТУХЛЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Прытухласць. *Нада нам пірісаліць ета мяса, ато ў клеці, дзе яно стаіць, тыкая прітухлысьць, што дыхаць нільзя.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІТХЛЫЙ, *прым.* Прытухлы. *Тут воздух нейкій прітхлый.* Гарбавічы Касцюк. *Етый кусок сала нейкій прітхлый, стыдна яго атдываць зы пазыкі, нада аддаць сьвежый.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІТХЛЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Прытухласць, запах гнілога. *Дзежка прітхлысьцю аддаець, нада яе выпарыць, ато сала сапсуецца.* Капава Хоцім.

ПРІТЫЛКА, -і, *ж.* Прыталака, верхні [бакавы] брусок абсады у дзвярах і вокнах. *Я ўдаріла аб прітылку лоб, дык валдыр ускачыў, што й вока ні відаць.* Слаўнае Мсціcл. *Ніжы сыгінайсь, ато гылавой у прітылку стукнісься.* Бяседавічы Хоцім. *Дзьверы ня шчыльна зачыняюцца ў прітылках.* Пухнава Раснян.

ПРІХАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Прыходзіць. *Пріхадзіў я ды яе і сяньні і надовічы, а яе ўсё не захвачу ў дваре.* Лешчынка Мсціcл. *Пріхадзіў надовічы к нам Якаў і кызаў, што хутка пычанецца выйна.* Гібалы Касцюк.

ПРІХАМЕТА, -ы, *ж.* Прыкмета. *Ета ужу первыя пріхамета: калі з поля ўперідзі йдзець чорныя карова, дык заўтрі абі-*

*зацілна будзіць дождж.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІХІНУЦЬ, *дзеясл.* Прыхінуць, прытуліць. *Німа гдзе яму гылавы пріхінуць — сірыта ён.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІХОД -а і -у, *м.* Прыход, парафія. *Наш пріход у Краснапольлі, туды мы і ў церькый ходзім.* Палуж Краснап.

ПРІХОДЖЫНІК, -а, *м.* Прыхажанін, парафіянін. *Ета свой чылавек — наш пріходжынік з Трубільні.* Высокі Бор Краснап.

ПРІХЫМЫЦЬ, -і, *ж.* Прыхамаць, лячэнне нагаворамі. *Есьць пріхымыць ад шалёныя сыбакі — ета ныгыварíць хлеба ці вады і даць выпіць.* Слаўнае Мсцісл.

ПРІЦІГАЦЦА, *дзеясл.* Прыцягвацца, прыходзіць. *Дакуль яны будуць пріцігацца, зачыні там дзьвері ны крючок і ні пускай болі нікога, ато целый дзень цягнуцца адзін пы адным.* Бяседавічы Хоцім.

ПРІЦІСНУЦЬ, *дзеясл.* Прыціснуць. *У кыпірацыі столькі народу, што як пріціснулі мяне ў дзьвярох, дык ледзь выбраўся — ні туды, ні сюды.* Васілеўка Хоцім.

ПРІЦЭЛ, -а, *м.* Прыцэл. *Ніправільный пріцэл узяў, нада было чуць уверьх, тады пупаў бы.* Новы Свет Краснап.

ПРІЦЭЛІЦЦА, *дзеясл.* Прыцэліцца. *Хадзіў я з ружжом і віжу — белка ны асіні; я пріцэліўся, бахнуў у яе, дык іна клубком аб землю.* Арцёмаўка Міласл.

ПРІЧАПІЦЦА, *дзеясл.* Прычапіцца, прыстаць. *Прічапіўсь нейкі сыбака — ні адыгнаць.* Дзеражна Касцюк.

ПРІЧЫНА, -ы, *ж.* Прычына. *Якая таму прічына, што ў гародзе нічога ні расьцець? Я ж і палола і палівала, а нічога німа.* Бабынічы Мсцісл. *Думый ты з гэстым чылавекым — біз дай прічыны аблаяў мяне і пашоў.* Вербеж Чэрык.

ПРІЧЫНІЦЬ, *дзеясл.* Прычыніць, зачыніць. *Прічыні ты троху дзьверы, ато куры пайцікаюць.* Гарадзец Міласл.

ПРІЧЫННЫЙ, *прым.* Прычынны [замешаны]. *Хлопіц у етым дзелі ні прічынный: ён атетуль ні выхадзіў усей час, ны яго ні думыйця.* Шумячы.

ПРІЧЫСАЦЦА, *дзеясл.* Прычасацца. *Што йта ты ходзіш лахудрый, ня можыш прічысацца троху.* Тур'я Чэрык.

ПРІЧЫСАЦЬ, *дзеясл.* Прычасаць. *Ета кучма вешна так ходзіць, хуць бы раз ты прічысала сваю гылаву.* Бяседавічы Хоцім. *Прічашы выласы ны гылаве, ато кучма-кучмой — глядзець брыдка.* Слаўнае Мсцісл.

ПРІЧЭПЛІВЫЦЦА, *дзеясл.* Чапляцца [прыставаць] без прычыны, дарэмна. *Ні прічэплівыйсь ды мяне, бо палучыш па зубах.* Казельская Буда Краснап.

ПРІЧЭСЫНЫЙ, *прым.* Прычасаны. *Вешна іна ходзіць ніпрічэсыныя і ніўмытыя, ведыма сірыта — некыму дыглядзець.* Залачова Мсцісл. *Ён хлопіц стройный, заўсёды прічэсыный, прігладжыный ходзіць.* Вярбоўка Расням.

ПРІШАРУБЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Прышрубоўваць. *Пыгадзі ні аччыняй дзьвірей — я клямку прішарубывыю.* Мануйлы Краснап.

ПРІШВА, -ы, *ж.* Прывязка, тоненькая жэрдачка, што кладзецца на кожны рад саломы, як крыюць страху, і ёй да паплеціны прывязваюць салому. *Нада ехыць у лес у прішвы — крышу буду крыць.* Машавая Бялынкав.

ПРІШТРЯПІЦЦА, *дзеясл.* Праштрафіцца, быць вінаватым, правінавацiцца. *Сяньні я здорава пріштряпіўсь — ні змог зманіць гладка.* Маластоўка Краснап.

ПРІШЧЫКАТУРІЦЬ, *дзеясл.* Атынкаваць. *Сьцены нада прішчыкатурыць, а столь пыкрасіць белыю краскый.* Шумячы.

ПРІШЫВАЦЬ, *дзеясл.* Прышываць. *Пыадрываў усі гузікі ў паліце, а прішываць німа часу — так і хаджу расхістаный.* Чэрыкаў.

ПРІШЫПІЕНІЦЬ, *дзеясл.* Прашпікаваць, прасачыць. *Жына прішыпіёніла за мужым, калі ён хадзіў да кумы.* Серчыцы Краснап.

ПРОБА, -ы, *ж.* Апрабаванне. *Коній у касілку зыпряглі — пробу дзелыць будуць.* Краснаполле.

ПРОБКА, -і, *ж.* Пістон да пугача. *Я купіў сабе пробык, ды плахея: дзве пробкі не запаліла.* Шарэйкі Касцюк.

ПРОБЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Апрабоўваць. *Мылацілку запусьцілі: пробывыюць, ці спряўныя.* Горкі Краснап.

ПРОБЫШНІК, -а, *м.* Пробачнік. *Вазьмі пробышнік ды ататкні бутылкі, а я прынясу што закусіць.* Слаўнае Мсцісл. *Атчыні бутылку пробышнікым, ато так ні адаб'еш.* Соханы Мсцісл.

ПРОДАЖ, -у, *м.* Продаж. *У продажы січас німа такіх кушакоў, ета яшчэ старый.* Шумячы.

ПРОДАК, -дка, *м.* Продак. *Яго продкі некылі былі бығатыя, а ён ні маіць ні кыла, ні двыра.* Ушакі Чэрык.

ПРОЗЬВІШЧА, -а, *н.* Прозвішча. *У етым сьпіску твайго прозьвішча німа, значыць, ты не аслыбажон ад прыдналогу.* Сохана Мсцісл.

ПРОЙДА, -ы, *ж.* Пройда [прайдоха]. *Ой, пройда гэста баба — яна ж табе разьведаіць, што было і чаго ні было.* Ушакі Чэрык.

ПРОЙШЛЫЙ, *прым.* Мінулы. *Я ні ведыю твайго пройшлыга, як ты раней жыла, а як цяпер жывеш, дык бачу.* Ушакі Чэрык.

ПРОЛАВАКА, -і, *ж.* Дрот. *Аплялі б вы пролавакай гэсты гаршчок, а рызваліцца, і есьці ні будзіць у чым зварыць.* Ушакі Чэрык.

ПРОЛУБКА, -і, *ж.* Палонка. *Мыла яна бяльлё ны рацэ ды ўвалілыся ў пролубку, тут ёй і квіт!* Пірагова Мсцісл.

ПРОЛЫБКА, -і, *ж.* Палонка. *Палез у пролыбку, гаворацъ, добра, што ня глыбока тут, ато бы заліўся.* Куляшоўка Клім. *Ідзі прысячы пролыбку, бо вады ні дыстаніш — за ныч замерзла.* Залачова Мсцісл.

ПРОМЫХ, -а, *м.* Памылка пры пападанні ў цэль. *Целіў ікраз у сярэдзіну, а даў промых, дык чуць толькі ў крыюшок пупаў.* Слаўнае Мсцісл.

ПРОРВА, -ы, *ж.* Завадзь. *Пойдзім лавіць рыбу ў старую прорву.* Касцюковічы.

ПРОСА, -а, *н.* Проса. *Я стоўк проса трохі, нада яго прыпылаць.* Хвёдараўка Краснап. *Мы сёліта цэлыя гоні проса засеялі.* Лапаціна Мсцісл.

ПРОСІЦЬ, *дзеясл.* Прасіць. *Хто сам пріходзіць, таго ні нада просіць.* Гарцуеўка Краснап.

ПРОСКУРА, -ы, *ж.* Праскура. *Ныпікла іна проскур ды дзівіцца: няўжо гэста іх поп називаіць целам хрыстовым?* Ушакі Чэрык.

ПРОСТА, *прысл.* Проста. *Ідзі проста гэстай дарогай — у бок нікуды ні зварочвай.* Ушакі Чэрык. *Што ты ныеш, проста душу выматваеш сваім плачам.* Пірагова Мсцісл.

ПРОТАР, -а, *м.* Протар, зламаная іголка. *Я думала, што гэста харошыя іголка, аж гэста протар — біз вушка.* Вербеж Чэрык. *Нашыму сыбаку далі протар с хлебым, дык і падох.* Крычаў.

ПРОЦАНТ, -а, *м.* Процант. *З грошай, што я зырыбляю, я пакідаю сабе самы невялікі процант, а ўсе астальныя пасылаю дамоў.* Ушакі Чэрык. *Хыця б ён ісьціну атдаў, а процынты ўжо ліха·зь імі, ніхай сабе пакініць.* Машавая Бялынкав.

ПРОЦЬМА, -ы, *ж.* 1. Процьма, мноства. *Процьма людзей на кірмашы.* Палуж Краснап. 2. Бездань. *У процьму ету сколькі ні дывай, сероўна ні напоўніш.* Горкі Краснап.

ПРОЧКІ, -чык, *мн. л.* Прочкі [намераны ўход з дому]. *Жонка пышла ў прочкі, у маткі цяперь жывець.* Арцёмаўка Міласл.

ПРУГІ, -оў, *мн. л.* Пругі, прылада для напружвання палатна пры тканні, робіцца з двух пруткоў, звязаных накрыж. *Пацісьні пругі, ато палатно ня роўныя выходзіць.* Бярозаўка Аршан. *Пругі трэба ныцягнуць.* Хвёдараўка Краснап.

ПРУД, -а, *м.* Млын. *Пятрусь паехаў на пруд малоць, ды нешта доўга німа, мабыць, завозна.* Пухнава Раснян. *Бацька павёз малоць жыта на пруд.* Бялынкавічы. *Бацька паехаў на пруд пшаніцы змалоць, ды кызалі там дужа завозна.* Пірагова Мсцісл.

ПРУДНІК, -а, *м.* Млынар, мельнік. *Пруднік век у муцэ.* Слаўнае Мсцісл. *Вельмі добры быў пруднік Язэп: пыпрасі яго, дык зараз зьмеліць.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ПРУЛУПІЦЬ, *дзеясл.* Пралупіць. *Прулупі сваё бізюкі* (вочы), *дык убачыш, айдзе пута.* Палуж Краснап.

ПРУПУШЧАЦЬ, *дзеясл.* Прапускаць, пускаць. *Ні нада яго прупушчаць чыріз вакно, ніхай ідзець у дзьвері.* Бяседавічы Хоцім.

ПРУСТУДЖАЦЦА, *дзеясл.* Прастуджвацца [і астываць, астуджвацца]. *Ні нясі гырячый хлеб на двор, пылажы ны вакно, дык ён і там будзіць прустуджацца.* Арцёмаўка Краснап.

ПРУСТУПІЦЦА, *дзеясл.* Прыступіцца. *Еткыя цяпер дырыгатоў — ні прустýпіцца.* Краснаполле.

ПРУТ, -а, *м.* Кій. *Матка хацела атсьцёбыць хлопца прутым.* Арцёмаўка Мілаcл.

ПРУТОК, -тка, *м.* 1. Спіца для вязання. *Вазьмі, Волька, пруткі і рабі панчохі.* Юшкі Мсцісл. *Ганна зьвязала пруткамі панчохі.* Малюшын Краснап. 2. Палка, што ўстаўляецца ў аснову красён, каб лепей было трымаць у парадку ніткі. *Пыдцягні там нызад пруткі, ато яны саўсім к нітам пад'ехылі.* Баеўка Крыч. *Пруток яшчэ бывае ў чайнаке, ны яго ўссажваюць цэўку.* Парадзіна Мсцісл.

ПРУТУНЦУВАЦЬ, *дзеясл.* Пратанцаваць. *Цэлый вечырь прутунцувалі ны аколіцы.* Хвёдараўка Краснап.

ПРУЦІК, -а, *м.* 1. Дубчык. *Нылымай пруцікыў.* Цівецкая Краснап. 2. Пруток, вязальная спіца. *Прінясі мне пруцікі, я буду візаць вязёнкі.* Бяседавічы Хоцім.

ПРУЦІНА, -ы, *ж.* Дубец, розга. *Добра абхвырасьціў яго гэтаю пруцінаю.* Сохана Мсцісл.

ПРЫ, *прыназ.* Пры. *Пры мне ня было грошы, а пазычыць было не ў кыга, так і ні купіў.* Бель Мсцісл. *Які ты ніўважлівый: пры людзях сядзіш і пацігаісься.* Ушакі Чэрык.

ПРЫБАСЕЦЬ, *дзеясл.* Абнасіцца абуткам, зрабіцца босымі. *Прыбаселі саўсім дзеці: ненышта купіць ім абутку.* Палуж Краснап.

ПРЫБІРАНЬНЯ, -я, *н.* Аздоба. *К сьвяту для прыбіраньня школы прывязьлі яловых ветак.* Сохана Мсцісл.

ПРЫБІРАЦЦА, *дзеясл.* Прыбірацца. *Дос табе прыбірацца ўжо, ісьці пыра, ато спозьнімся.* Дзеражна Касцюк.

ПРЫБІРАЦЬ, *дзеясл.* Прыбіраць, прыводзіць у парадак. *Чакаючы гасьцей, я хату прыбірала, ато надта зывалена была.* Мацутаўка Раснян. *Прышлі, нысьлядзілі тут, а цяпер прыбірай за імі, а няхай вас, хлопчыкі, дзяўкі любяць.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫБІЦЬ, *дзеясл.* Прыбіць. *Пыдай мне клявец, нада прыбіць дошку.* Лапаціна Мсцісл. *Трэба падосык к восі прыбіць — адырваўся.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫБЛУДНЫЙ, *прым.* Прыблудны. *Гэста ж сыбака ні наш — нейкі прыблудный — і скуль ён прыбег?* Ушакі Чэрык.

ПРЫБЛУДЫШ, -а, *м.* Беспрытульны, нямаведама чый. *Узяў сабе прыблудыша ў гудуванцы, ніхай жывець.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫБОРЫ, -аў, *мн. л.* Прыборы [прыбіранне], адзяванне. *Вот ужо ні люблю гэтых прыбораў — ныпрянуў што-небудзь ды пашоў, ато ні ведыіць, што надзець, як дзеўка сватоў чакаючы.* Халдзееўка Хоцім.

ПРЫБОСЬЦЬ, *дзеясл.* Прапароць, праткнуць, прабіць дзірку. *Хацеў зьдзелыць віртушку, ды нечым прыбосьць дошычку.* Горкі Краснап.

ПРЫБРАТЫЙ, *прым.* Прыбраны, адзеты па-святочнаму. *Нейдзі ж пышла Агата прыбратыя, мабыць, да цёткі ў госьці.* Мацутаўка Раснян. *Яўмен памёр і ляжыць ужо ны сталe прыбратый.* Палуж Краснап.

ПРЫБРАЦЦА, *дзеясл.* Прыбрацца, адзецца па-святочнаму. *Куды ета так прыбраўся, ці ні ў сваты часамі?* Журбін Бялынкав.

ПРЫБРАЦЬ, *дзеясл.* Прыбраць. *Прыбрала хату: павесіла чыстыя фіранкі, мост памыла, дык і прыгажэй стала.* Пірагова Мсцісл. *Прыбяры, Дуня, пол — нешта адзежа дужа параськідана.* Новыя Капачы Мсцісл.

ПРЫБУДАВА́НЬНЯ, -я, *н.* Прыбудова. *Зрабілі яны к хаці нейкыя прыбудаваньня, і вышла ў іх хата на дзьве пылавіны.* Ушакі Чэрык.

ПРЫБЫ́ТАК, -тку, *м.* Прыбытак. *Прыдаў я кыня і вярнуў грошы, што сам зыплаціў, і яшчэ прыбытку рублёў пяць.* Ушакі Чэрык.

ПРЫБЫ́ТНЫЙ, *прым.* Прыбытковы. *Бярысь-ка ты за ета дзела, яно прыбытнае — не пашкодзіць.* Пірагова Мсцісл.

ПРЫБЫЎЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Прыбаўляць. *Каровы ў травы мылыка прыбыўляюць.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫБЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Здабыць, дастаць. *Зяць прыбыў неяк грошый і купіў карову.* Палуж Краснап.

ПРЫВАЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Праваліцца. *Прывалілысь пальніца ў масту.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫВАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Прыстаць да берага. *Паром прываліў к берыгу.* Маластоўка Краснап.

ПРЫВАРО́НІЦЬ, *дзеясл.* Прапусціць, недагледзець. *Зашлындыўсь і абед прываронііў.* Парадзіна Мсцісл.

ПРЫВА́РЫК, -рку, *м.* Прыварак, заправа. *Німа ніякыга прыварку, нішчымныя хлібаім.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫВЕ́ЗЕНЫЙ, *прым.* Прывезены. *Ны хату ўжо прывезен пакот.* Машавая Бялынкав.

ПРЫВЕ́ЗЬЦЬ, *дзеясл.* Прывезці. *Прыехыў наш дзядзька з Менску і прывёз вялікей пак з гасьцінцымі.* Старае Сяло Мсцісл. *Прывёз я мыкыўя на дровы.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫВЕ́ЦІЦЬ, *дзеясл.* Прывеціць, ветліва прыняць. *Дзядзіна нас дужа добря прывеціла: і ныпаіла, і ныкарміла, і гарелкі пыдыла.* Палуж Краснап.

ПРЫВІЗА́ЦЦА, *дзеясл.* [Прывязацца], прыстаць, прычапіцца. *Ды чаго ты прывізалысь, як асва, аткасьніс ты ат мяне!* Старае Сяло Мсцісл.

ПРЫВІЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Прывязаць. *Нядобра ты прывізаў, глядзі — адвяжыцца і ўпадзець.* Вербеж Чэрык.

ПРЫ́ВІЗІНЬ, -зьня, *м.* Раменчык, якім прывязваецца біч да цапільна. *Прывізьні ў цапу піряцёрлісь.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫ́ВІЗКА, -і, *ж.* 1. Прывязь. *Пусьці кыня на прывізку.* Хвёдараўка Краснап. 2. Тонкая жэрдачка, якою прымацоўваецца рад саломы да латы на страсе. *Паедзім прывязём прывізак, бо трэба перакрыць крышу на пуні.* Хлышчы Мсцісл.

ПРЫВЫ́КНУЦЬ, *дзеясл.* Прывыкнуць. *Мы прывыклі цяпер кожны дзень чай піць.* Пірагова Мсцісл.

ПРЫВЯЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Прывязаць. *Прывяжы праскоўку к быране.* Людагошч Мсцісл.

ПРЫВЯ́ЗВЫЦЦА, *дзеясл.* Прывязвацца. *Вароты нашы прывязвыюцца путым.* Машавая Бялынкав.

ПРЫ́ВЯЗКА, -і, *ж.* Тонкая жэрдачка, якою прымацоўваецца рад саломы да латы на страсе. *Нысячы воз прывязак.* Вародзькава Крыч.

ПРЫВЯ́ЗЬЛІВАСЬЦЬ, -і, *ж.* Прывязлівасць, звыкласць быць з чалавекам. *Твыя прывязьлівасьць міне дзівіць: ты ж ні можыш і часіны пабыць біз яе.* Ушакі Чэрык.

ПРЫВЯЗЬЦІ́ [прыве́зьць], *дзеясл.* Прывезці. *Прывязець бацька ны калёсых, дык і горад пыбачыш.* Радзіонаўка Мсцісл. *Прывязьлі воз сена, ды ні пасьпелі спратыць.* Дарагая Крыч.

ПРЫГАЖУ́ЛЬЛЯ, -і, *ж.* Прыгажуня. *Верна такія прыгажульлі йшчэ нійдзе ня ўбачыць, як Саклета.* Куркаўшчына Мсцісл.

ПРЫГАЛУ́БІЦЬ, *дзеясл.* Прыгалубіць, прыласкаць. *Піскляткa ты маё — хыдзі, я прыгалублю цібе, сынок мой мілінькій.* Ушакі Чэрык.

ПРЫГАСТВО́, -а, *н.* Прыгажосць. *Сьвятоя раство — людзім прыгаство.* Маластоўка Краснап.

ПРЫГАТУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Прыгатаваць, зрабіць. *Бацька прыгатуваў канун для пчол.* Вусце Чэрык.

ПРЫ́ГАЦЬ, *дзеясл.* Скакаць. *Курапа прыгаець пры дарозе.* Чыгрынаўка Раснян.

ПРЫГЛАДЖЫНЫЙ, *прым.* Прыгладжаны, прычэсаны, прыбраны. *Што ета ты сяньні такей прыгладжыный, прымасьліный, ці ні ў сваты пойдзіш?* Бяседавічы Хоцім.

ПРЫГЛА́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Прычасацца. *Вазьмі грыбянец ды прыгладзься трохy, ато выласы, як бырына.* Палуж Краснап.

ПРЫГНА́ЦЦА, *дзеясл.* Прыгнаць з поля статак. *Пастух прыгнаўся, трэба кароў даіць.* Палуж Краснап.

ПРЫГНА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Прагнаць. *Ён нарошня прышоў туды, каб прыгнаць адтуль хлапцоў.* Пірагова Мсцісл. [2. Прыгнаць].

ПРЫ́ГНУЦЬ, *дзеясл.* Скокнуць. *Я іду тут, а заіц з-пад елкі кылі прыгніць — чыста піріпужаў мяне.* Слаўнае Мсцісл.

ПРЫГО́ДА, -ы, *ж.* Прыгода, здарэнне. *А ведаіця, ікая са мной прыгода была? Ішоў упацёмку ды ўсунуўсь у кынаву.* Ушакі Чэрык.

ПРЫГО́ЖА, *прысл.* Прыгожа. *Як ты сёньні прыгожа выглідаіш!* Ушакі Чэрык. *Ны нашым магільніку дужа прыгожа: бярозы растуць, кветкі і чыста надта.* Горка Краснап.

ПРЫГО́ЖЫЙ, *прым.* Прыгожы. *Прыгожы хлопец Рыгор, і ветлівый — нікога ні ўразіць.* Хоцімск. *Якая ў цябе прыгожыя хустка — сінія з кветкамі.* Вярбоўка Раснян. *Людзі любяць усё прыгожае.* Сохана Мсцісл.

ПРЫГО́Н, -у, *м.* Прыгон, паншчына. *Хто з тутэйшых мужыкоў памятаіць прыгон?* Сохана Мсцісл. *За прыгоным пану плацілі аброк або працывалі ны пана.* Жалезніца Краснап.

ПРЫГО́РСЬЦЬ, -і, *ж.* Прыгаршчы. *Ну колькі ты ныбярэш у сваю прыгорсьць — гэткая маленькыя рука ў цябе.* Ушакі Чэрык.

ПРЫГУКНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Прыклікаць. *Мы й ласкай, і просьбай, і грозьбай, ні хочыць ісьці к маім рукам — нізашта ні магу прыгукнуць яго.* Ушакі Чэрык.

**ПРЫГУМЕ́НЬНЯ**, -я, *н.* Прыгуменне, месца перад гумном. *Пысядзі на прыгуменьні, пакуль я схаджу ў гумно.* Маластоўка Краснап.

**ПРЫГЫНЯ́ЦЬ**, *дзеясл.* Прыганяць, прымушаць. *Дзядзька свайго хлыпца прыгыняе многа работыць.* Тур'я Краснап.

**ПРЫД**, -а, *м.* Пруг, край палатна. *Ні садзіся на край красён — прыд адцісьнеш.* Дуброўна.

**ПРЫ́ДАБРА**, -ы, *ж.* Затаўка, задабра. *Прыдабры німа, німа чым гаршчка зыдабрыць.* Хоцімск.

**ПРЫДАВА́ЦЦА**, *дзеясл.* Прадавацца. *Кыбанчык пірязімык прыдаецца.* Палуж Краснап.

**ПРЫДАВА́ЦЬ**, *дзеясл.* Прадаваць. *Нада купіць мылытарку, січас машыны прыдаюць ны разлог.* Палуж Краснап.

**ПРЫДА́НСТВА**, -а, *н.* Пасаг. *За дзеўкай прыданства бальшоя, а ніхто ні бярэць.* Бялынкавічы.

**ПРЫДА́ЦЦА**, *дзеясл.* Прадацца, аддацца. *Гора маё такоя, хоць мату прыдайся.* Б. Хутары Краснап.

**ПРЫДА́ЦЬ**, *дзеясл.* Прадаць. *Перакупка тым і жыве, што ў цябе купіць, а мне прыдасьць.* Старае Сяло Мсцісл. *Мы сяньні прыдалі лазьбень мёду.* Вербеж Чэрык.

**ПРЫДБА́ЦЬ**, *дзеясл.* Прыдбаць, набыць. *Прыдбаў бацька, дык і табе, сынок, добря!* Хвёдараўка Краснап.

**ПРЫДЗЕ́Л**, -а, *м.* Прыбудова да хаты. *Сёньні будзем тапіць печ у прыдзелі.* Смолькаўская Буда Бялынкав.

**ПРЫДЗЕ́ЛАЦЬ**, *дзеясл.* Прырабіць, прыбудаваць. *Сёліта думаю к хаце прыдзелаць трысьцен.* Васілеўка Хоцім. *Мне трэба прыдзелаць натосьнік.* Ташна Клім.

**ПРЫ́ДЗІР**, -а, *м.* Кусок зямлі, прыараны да старога пляца. *На прыдзірі добрыя проса вырысла.* Хвёдараўка Краснап.

**ПРЫДЗІШАВІ́ЦЬ**, *дзеясл.* Танна прадаць. *Нада ж было мне прыдзішавіць карову, ну пряма-ткі зы пуўцаны аддаў.* Слаўнае Мсцісл.

**ПРЫДО́БА**, -ы, *ж.* Добрыя ўмовы жыцця. *Трэба ў жыцьці прыдобы шукаці, а ня жыць абы як.* Б. Хутары Краснап.

**ПРЫДСІДАЦІЛЬ**, -я, *м.* Старшыня. *Прыдсідаціль нашыга сельсавету вельмі добры чылавек.* Міцькаўшчына Мсцісл.

**ПРЫДСТЫЎЛЯ́ЦЬ**, *дзеясл.* Дастаўляць. *Мой бацька ў кыпірацыю тывары прыдстыўляе з станцыі.* Юшкі Мсцісл.

**ПРЫДУ́МВЫЦЬ**, *дзеясл.* Прыдумваць. *Што ты прыдумваеш усякае непуцьцё! Я табе ўсёдно ні паверу.* Пірагова Мсцісл.

**ПРЫДУ́МЛІВАЦЬ**, *дзеясл.* Прыдумляць. *Німа чаго рабіць, ну і прыдумлівае.* Парадзіна Мсцісл.

**ПРЫДУ́Р**, -а, *м.* Прыдур. *Хлопіц з прыдурым быў, ну й нытварыў штук.* Палуж Краснап.

**ПРЫДУРКУВАТЫЙ**, *прым.* Прыдуркаваты, не ў поўным розуме. *Ён нейкій прыдуркуватый.* Хвёдараўка Краснап.

**ПРЫДУ́ХА**, -і, *ж.* Прыдуха, незамерзлае месца ў рацэ. *Найшлі прыдуху ны ряке і нылавілі рыбы.* Горкі Краснап.

**ПРЫДЫВА́ЦЬ**, *дзеясл.* Прадаваць. *Скора будуць новэй хлеб прыдываць.* Арцёмаўка Міласл. *Агульна прыдываць тывар ні варта.* Лешчынка Мсцісл.

**ПРЫЕ́МНА**, *прысл.* Прыемна. *І гэтак мне было прыемна з ім сядзець, здаецца, і сядзела б з ім век.* Ушакі Чэрык.

**ПРЫЁХЫНЬНЯ**, -я, *н.* Прыезд. *Чыкалі мы, чыкалі твайго прыехыньня — думалі, што й ні прыедзіш ужо к нам.* Ушакі Чэрык.

**ПРЫЁХЫЦЬ**, *дзеясл.* Прыехаць. *Дзядзька хацеў сяньні ды нас прыехыць, але нешта ня едзе.* Хоцімск. *Ні ждана прыехылі к нам госьці.* Пірагова Мсцісл. *Ён памеўся прыехаць, як жа ня прыедзе?* Палуж Краснап.

**ПРЫЖА́ХЫЦЬ**, *дзеясл.* Хутка прабегчы. *Што еткыму ладныму каню, які стаіць ны стайні, прыжахыць якіх-небудзь дваццыць вёрст — зы малінку.* Слаўнае Мсцісл.

**ПРЫЖЫ́ЦЦА**, *дзеясл.* 1. [Прыжыцца], прыняцца. *Атростык у гаршчонычку прыжыўся.* Палуж Краснап. 2. Дажыцца, дачакацца. *Прыжыліся ды таго, што й солі німа.* Там жа.

**ПРЫЗАБЫ́ЦЬ**, *дзеясл.* Прызабыць, запамятаваць, выпусціць з памяці. *Наста прызабыла ўзяць грошы.* Маластоўка Краснап.

**ПРЫЗАЎНЫ́ЦЬ**, *дзеясл.* Засмуціцца. *Ён нешта прызаўныў.* Радзілёў Краснап.

**ПРЫЗІДЗІУМ**, -а, *м.* Прэзідыум. *Усі абраныя ў прызідзіум займіця свае месцы.* Мазалева Мсцісл. *На, пірідай ету пісульку ў прызідзіум.* Мсціслаў.

**ПРЫЗНА́ЦЬ**, *дзеясл.* Прызнаць. *Мой конь абракованый, камісія прызнала яго нягодным.* Мсціслаў.

**ПРЫЗНАЧЭ́НЬНЯ**, -я, *н.* Прызначэнне. *Ну лі якога прызначэньня стаіць тут гэсты зэдлік? Ны яго ні сесьць, ні пыставіць нічога нельга.* Ушакі Чэрык.

**ПРЫЗЫНТЫВАЦЬ**, *дзеясл.* Абманваць ілжывымі абяцанкамі. *Ні прызантуй маіх дзяцей, нечыга табе іх прызынтываць.* Хвёдараўка Краснап.

**ПРЫЙЦІ́**, *дзеясл.* 1. Прыйсці. *Прыйшоў май, зацьвілі цьвяты на лугох.* Мілаславічы. 2. Прайсці. *Куля з ліварверту прыйшла сьцяну наскрозь.* Бяседавічы Хоцім.

**ПРЫЙЦІ́СЯ**, *дзеясл.* Давесціся. *Круціўсь я і так і етык — аднак прыйшлось здацца.* Старае Сяло Мсцісл. *Пастроіў пан дом, ды ні прыйшлося ў ём жыць.* Тур'я Чэрык.

**ПРЫКАВУ́ЛЫК**, -лка, *м.* Завулак. *Пряма, тады налева будзіць прыкавулык, і там яго хата.* Бяседавічы Хоцім.

**ПРЫКА́ЙШЧЫК**, -а, *м.* Прадавец у краме. *Сымусёнык быў прыкайшчыкым у горыдзі, а цяпер у кыпірацыві служа.* Маластоўка Краснап.

**ПРЫКА́Н**, -а, *м.* Паркан, плот, агароджа. *Наш прыкан пываліўсь, шулы новыя нада пыставіць.* Сабалёўка Калінінішчына.

**ПРЫКАРЭ́ЦЬ**, *дзеясл.* Прыкарэць, прысохнуць. *Гразь прыкарэла — ня тчысь-*

*ціць*. Палуж Краснап. *Ні адырваць анучкі ад болікі—гэтак прыкарэла*. Ушакі Чэрык.

ПРЫКАСЫВАЦЦА, *дзеясл*. Прычэплівацца, прыставаць. *Чаго ты ды яго прыкасываешся?* Паходавічы Чэрык.

ПРЫКАЎТНУЦЬ, *дзеясл*. [Пракаўтнуць], праглынуць. *Бульба з лоем як зыстыгла, дык нізаштычка ні прыкаўтнеш*. Куркаўшчына Мсцісл.

ПРЫКАЦІЦЦА, *дзеясл*. [Праехацца шыкоўна], праехаць хутка. *Хырашо прыкаціцца на добрым кані*. Слаўнае Мсцісл.

ПРЫКАЦІЦЬ, *дзеясл*. Праехаць хутка [і шыкоўна]. *Ладна было б у сухую пагоду прыкаціць ны кані*. Слаўнае Мсцісл.

ПРЫКІНУЦЦА, *дзеясл*. Стацца, паявіцца. *Айдакім сыдраў прыйшчык, і нейкыя біда прыкінулась — рука распухла і пасінела*. Палуж Краснап. *Дзіцёнык ні ўціхая крычыць, наверна дзяцініц прыкінуўсь*. Хвёдараўка Краснап.

ПРЫКЛАДНА, *прысл*. Складна. *Як прыкладна ты напісаў яму пісьмо, што ніхто так ні прыдумыіць*. Лешчынка Мсцісл.

ПРЫКЛАНІЦЬ, *дзеясл*. Скланіць, схіліць. *Прыклані, дзетка, сваю галоўку ка мне на грудзі і засьні, а я цябе пынашу*. Васілёўка Хоцім.

ПРЫКЛАСЬЦІ, *дзеясл*. Пракласці. *Прыклалі цэлую дарогу, ходзючы па пожні*. Зялёны Сарай Мсцісл. *Прыклалі кулісу* (прасеку) *у лесі*. Хвёдараўка Краснап.

ПРЫКОЛКА, -і, *м*. Прыколка, шпілька ў косы. *Купіла сабе прыколык зы двацыць капеяк*. Хвёдараўка Краснап.

ПРЫКОСЬНІК, -а, *м*. [Запатылак], клінок для замацавання касы. *Падбі мянтой прыкосьнік, ато ён слаба сядзіць, і кыса шываліцца*. Машавая Бялынкав. *Удзень у баньку прыкосьнік*. Хвёдараўка Краснап.

ПРЫКОСЬСЯ, -я, *н*. Лучок, прылада да касы, калі косяць збожжа, каб зграбалася і клалася касой у адну кучу скошанае. *Ідзі пупрасі ў дзядзькі прыкосься — касіць грэчку*. Хвёдараўка Краснап.

ПРЫКРА, *прысл*. Прыкра. *Ён гыварыў такім салодкім голасым, што аж прыкра зрабілась*. Ушакі Чэрык.

ПРЫКРЕПКА, -і, *ж*. Умацаванне. *Ну, йкая тут прыкрепка, калі хырашо гойкнуць, дык ўсё і пыляціць*. Бяседавічы Хоцім.

ПРЫКРЫЦЬ, *дзеясл*. [Прыкрыць], прычыніць. *Прыкрый, Ганна, печку заслонкай, ато весь дух выйдзець*. Хлышчы Мсцісл.

ПРЫКУРЫЦЬ, *дзеясл*. Прыкурыць, запаліць цыгарку. *Пыдай мне вугаль — прыкурыць*. Касцюковічы.

ПРЫКУТАЦЬ, *дзеясл*. Прычыніць. *Прыкутай хату, ато холыд ідзець*. Палуж Краснап.

ПРЫКУТЫЙ, *прым*. Прыкаваны. *У саўхозі вогір стаіць у стайні прыкуты ды сьцяны ланцугом*. Куравічы Мсцісл.

ПРЫКУЦЬ [прыкуваць], *дзеясл*. Прыкаваць. *Ці ён бы ета ліжаў? Хвароба яго прыкула к пысьцелі, ні пускаіць хадзіць*. Ушакі Чэрык.

ПРЫЛАБУНІЦЦА, *дзеясл*. Прыпасці [падсуседзіцца]. *Іш, прылабуніўся! Есьць і вокам ні мірганець*. Хвёдараўка Краснап.

ПРЫЛАДА, -ы, *ж*. Прылада. *Бяз прылады і вошы ні заб'еш і блахі ні пыймаеш*. Пацкава Мсцісл.

ПРЫЛАДЗІЦЦА, *дзеясл*. Прыладзіцца. *Пакуль прыладзіцца, дык ні пасьпеіць пыдываць снапы ў мылытарку, а потым пойдзіць шыбка і хырашо*. Бяседавічы Хоцім.

ПРЫЛАДЗІЦЬ, *дзеясл*. Прыладзіць. *Прыладзіў я ўжо сабе сані к зіме, зьдзелыў градку*. Пірагова Мсцісл.

ПРЫЛАЖЫЦЬ, *дзеясл*. [Прылажыць], прыкласці. *Я прылажыў к яго мордзі піцярню, а біць яго ня біў*. Хвёдараўка Краснап

ПРЫЛАУЧЫЦЦА, *дзеясл*. Прылаўчыцца, прыцэліцца. *Сылдат прылаўчыўся дый стрыляну́ў*. Турэйск Краснап.

ПРЫЛАШЧЫЦЬ, *дзеясл*. Прылашчыць. *Стоіць толькі прылашчыць сыбаку, пыгладзіць трохі, дык і хвыстом завіляіць*. Ушакі Чэрык.

ПРЫЛІХІЙ, *прым*. [Вельмі] ліхі. *Длі мяне сьвякрова — ведзьма прыліхая*. Палуж Краснап.

ПРЫЛУКА, -і, *ж*. Здарэнне, прыгода. *Розныя бываіць прылука з чылавекам: надойчы я йшоў і на гладкый дарозі упаў і чуць нагі ні злумаў*. Пухнава Раснян.

ПРЫЛУЧКА, -і, *ж*. Здарэнне, прыгода. *Са мной была сяньні прылучка: адзін ны адзін з ваўком устрецілісь, ды ноччы*. Бяседавічы Хоцім. *Без прылучкі нічога не бывае*. Людагошч Мсцісл.

ПРЫЛУЧЭНЬНЯ, -я, *н*. Далучэнне. *Прылучэньня яго ды нас ні к дабру — прагонім лепш яго, хай ідзець, куды хочыць*. Ушакі Чэрык.

ПРЫЛЯМКА, -і, *ж*. Прылямак, прышытая на грудзях сарочкі істужка палатна, у якой праразаюцца пятліцы для зашпільвання. *Нада піряшываць рубашку — прылямку ні так ушыла*. Хвёдараўка Краснап.

ПРЫЛЯМЫК, -мка, *м*. Прылямка. *Дзяўчына прышыла к сарочкі вышытый прылямык*. Людагошч Мсцісл.

ПРЫЛЯЦЕЦЬ, *дзеясл*. Праляцець, хутка пранесціся. *Прыляцела пы дзярэўні навіна — сылдат бяруць*. Слаўнае Мсцісл.

ПРЫМАЗЫНЬНІК, -а, *м*. Прыхвасцень. *Многа прымазыньнікыў пайлезла*. Мастоўка Краснап.

ПРЫМАЙСТРЫВАЦЬ, *дзеясл*. [Прымайстраваць], прыладзіць. *Згубілась мыя банька, і цяпер німа як касы прымайстрываць к кысьсю*. Ушакі Чэрык.

ПРЫМАРУДА, -ы, *ж*. [Затрымка], зацяжка ў часе. *Ну, ны адну мінутку вышла ў нас прымаруда, і ўжо бач, як спазьнілісь*. Ушакі Чэрык.

ПРЫМАСЬЛІЦЬ, *дзеясл*. Прыгладзіць, гладка прычасаць. *Кувалерчык прымасьліў чупрінку*. Палуж Краснап.

ПРЫМАХ, -у, *м*. Памылка. *Ета — мой прымах, трэба было раней у горыд зьезьдзіць, а тады ўжо сеіць*. Парадзіна Мсцісл.

ПРЫМАХНУЦЦА, *дзеясл*. [Прамахнуцца], не папасці ў цэль. *Хацеў пупасьць шыб-*

*нём у сыбаку, а прымахнуўся ды пряма ў вакно.* Слаўнае Мсцісл.

ПРЫМАЦУВАЦЬ, *дзеясл.* Прымацаваць. *Прымацувалі вароты к бегуну.* Пацкава Мсцісл.

ПРЫМЕЦІЦЦА, *дзеясл.* Прыцэліцца. *Прымеціўся ў птушку і бахнуў з ружжа.* Палуж Краснап.

ПРЫМЕЦІЦЬ, *дзеясл.* Адзначыць, назначыць. *Я сваіх ягнят прымеціла, на шыю чырвоныя істужкі зывізала.* Стары Дзедзін Мілáсл.

ПРЫМЕЧЫНЫЙ, *прым.* Адзначаны. *Наш быран прымечыный, у яго левыга вуха кончык атрезын.* Бяседавічы Хоцім.

ПРЫМІЖ, *прыназ.* Паміж. *Прыміж град вырысла лібіда.* Дарагая Крыч. *Каб прыміж гумён, прыміж гародыў* || *Рана сьвет зысьвітаіць.* З нар. песні, М. Г. 8.

ПРЫМІЛЬКНУЦЬ, *дзеясл.* Прамільгнуць. *Ён прымількнуў, як мылыдня.* Кокатава Мсцісл.

ПРЫМІНЯЦЦА, *дзеясл.* Прытаргоўвацца [прыкідваць па грашах]. *Хацеў купіць каткі, стаў прыміняцца ны кірмашы, дык ні хыпая грошы.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫМІРКАЦЬ, *дзеясл.* Вечарэць, змяркацца, цямнець. *Сьвірыд вярнуўся двору, як стала прыміркаць.* Тур'я Краснап.

ПРЫМІРКЫВАЦЬ, *дзеясл.* Прымеркаваць. *Уперыд, чым пашыць, нада прымірквываць, ці хопіць мацерыі.* Слаўнае Мсцісл.

ПРЫМУС, -а, *м.* Прымус. *Піце, есьце, госьцікі, біс прымусу.* Сохана Мсцісл.

ПРЫМУСІЦЬ, *дзеясл.* Прымусіць. *Ты ж кызаў, што зайдзеш пы мяне, прымусіў ждаць і ні зайшоў.* Папоўшчына Мсцісл. *Сілаю прымусіш даць, а ўзяць ня прымусіш сілаю.* Сохана Мсцісл.

ПРЫМУШАНЬНЯ, -я, *н.* Прымушэнне, прымус. *Не, тут прымушаньня нічога ні пыможыць — зь ім трэба добрыя слова ды ласка.* Ушакі Чэрык.

ПРЫМЫКАТКА, -і, *ж.* Прамакатка. *Нынісаў мне дыстывярэньня, тады прымыкаткай прыцісную.* Палуж Краснап.

ПРЫМЫЛЬНІК, -а, *м.* Раздзявалка пры лазні. *Пыстаў ваду ў прымыльнік.* Вародзькава Крыч. *У прымыльніку памыўся, бо ў лазьні ня ўседзіў — дужа жарка.* Хвёдараўка Краснап. *У прымыльніку пычалі мяць пяньку, дык зы кастрою ў лазьню нельга ўвайсьці.* Паўлавічы Клім.

ПРЫМЫСЬЛІЦЬ, *дзеясл.* Прыдумаць. *Нядобра ты ета прымысьліў зьдзелыць.* Палуж Краснап.

ПРЫМЫЎЛЯЦЬ, *дзеясл.* Прымаўляць, падмаўляць. *Ён прымыўляя яе гуляць зь ім.* Маластоўка Краснап.

ПРЫМЯНІЦЬ, *дзеясл.* Прыстасаваць. *Паскудства тваё ні к чому ні прымяніць.* Палуж Краснап.

ПРЫНАДА, -ы, *ж.* Прынада. *Зыбраў вуду, чарвей і ўсякія прынады і пайшоў рыбу лавіць.* Парадзіна Мсцісл. *На што паслухыла яго прынады, чаго пышла зь ім?* Кажамякіна Краснап.

ПРЫНАДНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Прынада. *Прынадныcьць ты мыя — ты ж прыгажэйшыя за ўсіх дзіўчат.* Ушакі Чэрык.

ПРЫНАДЫБ'Я, -я, *н.* Патрэба, інтарэс. *Ён усё ета дзелыя ды свайго прынадыб'я.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫНАМСЦІ, *прысл.* Прынамсі, у кожным разе. *Дырма ты ны яго кажыш, ня ён ета зьдзелыў, прынамсці, я ніколі ні зыўважыў, штоб ён браў што-небудзь біз спросу.* Касперка Міласл. *Прынамсі я ні браў етыга.* Брылёўка Краснап.

ПРЫНАСІЦЬ, *дзеясл.* Прыносіць. *Тут Сьвірыдыў Мікола прынасіў пінжак, што ты піряшыў.* Бялішчына Мсцісл.

ПРЫНЕСЬЦЬ, *дзеясл.* Прынесці. *Маці прынесла з клеці сала.* Роськаў Калінінщчына. *Марылька! Ці прынесла ты з клеці хлеб?* Стары Дзедзін Міласл.

ПРЫНІЗІСТЫЙ, *прым.* Прыземісты. *Каб ён быў высокі, дык не, а такі сабе прынізісты, плотны.* Ушакі Чэрык.

ПРЫНЯСЬЦІ, *дзеясл.* Прынесці. *Нада йшчэ вады прынясьці, тады будзем абедаць.* Хоцімск.

ПРЫНЯЦЬ, *дзеясл.* 1. Прыняць, пачаставаць. *Сапрон чылавек гасьціннэй — любіць гасьцей прыняць.* Азерцы Клім. 2. Праняць. *Дзіцёнак наеўся зеліні, ну яго і прыняў мыт.* Слаўнае Мсцісл.

ПРЫПАДЛІВЫЙ, *прым.* Вільготны, злеглы. *Ета зімля прыпадліва, ныўряд ці ўродзіць тут што.* Горкі Краснап.

ПРЫПАДЫК, -дка, *м.* Прыпадак. *Яго, знаць, прыпадык схваціў: упаў і ляжыць біз памяці.* Ушакі Чэрык.

ПРЫПАДЫЧНЫЙ, *прым.* [Хворы на эпілепсію]. *Ня йдзі зы яго замуж — ён прыпадычный.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫПАМІНКА, -і, *ж.* Успамін [напамінак], памятка. *Хустка — адна прыпамінка, што ў мяне асталысь ад дачкі.* Бяседавічы Хоцім.

ПРЫПАСЬЦЬ, *дзеясл.* Прапасці, згінуць. *Наш клевір, што пасеілі па жыту, прыпаў — нада атсівáць.* Касперка Міласл. *У яго зер прыпаў — нічога ні бачыць.* Беразякі Краснап. *Ні дывай яму грошы, ато прыпасьць могуць — ні 'ддасьць.* Буда Рагатая Міласл.

ПРЫПЕК, -а і -у, *м.* Прыпек [ляжанка], лаўка пры печы для спання. *Дзед у нас сьпіць на прыпеку. Прыпек — дзедыва месца.* Барысавічы Клім.

ПРЫПЕРЦЬ, *дзеясл.* Пільна спатрэбіцца [захацець, адчуць неабходнасць]. *Прыперла табе, ня выцірпіш — пычыкай троху, будзім усі разым есьць.* Мацутаўка Раснян.

ПРЫПЕЧАК, -чка, *м.* Прыпек [ляжанка], лаўка пры печы. *Дзед сядзіць на прыпечку і грэіць сваё плечы.* Кісялёва Буда Краснап.

ПРЫПІК, -а і -у, *м.* Прыпек [ляжанка пры печы]. *Чаго стаў кыля прыпіку, ідзі бліжэй ды стыла.* Тур'я Чэрык. *Я пыклаў анучы на прыпіку, а січас іх німа там.* Буда Рагатая Міласл.

ПРЫПІХАЦЬ, *дзеясл.* Прапіхаць. *Дзед дзелыў цыбук у піпку з прута арешыны; прыпіхаў серца дроцікым ды рыскалоў прут.* Арцёмаўка Міласл.

ПРЫПЛАТА, -ы, *ж.* Прыплата, даплата, дадатак у плаце. *Дай прыплату, тады*

*пуміняю кабылу ны кыня.* Маластоўка Краснап.

ПРЫПЛЮСНУЦЬ, *дзеясл.* Прыплюшчыць, закрыць вока. *Калі целісься з ружжа, адно вока прыплюсьні.* Канічы Касцюк.

ПРЫПОЛ, -а, *м.* Прыпол. *Глядзі ты, у момант прыпол шчаўя ныэьбірала!* Касперка Міласл. *Ішлі дзевычкі із поля, || Нясьлі красычкі ў прыполі.* З нар. песні, М. Г. 24.

ПРЫПОЛЫК, -лка, *м.* Паліца ў сасе. *Прыполык у сахі сыраўся.* Самацэвічы Касцюк. *Пулумаўся прыполык, і дапыхаць ні прышлось.* Брылёўка Краснап.

ПРЫПОМНІЦЦА, *дзеясл.* Успамянуцца. *Прыпомняцца табе маё сьлёзы.* Юшкі Мсцісл.

ПРЫПОМНІЦЬ, *дзеясл.* Прыпомніць, успамянуць. *Пыгадзі, я табе атамшчуся, прыпомню калі-небудзь.* Пірагова Мсцісл.

ПРЫПРЭДЛЫГАЦЬ, *дзеясл.* Думаць, меркаваць. *Я прыпрэдлыгаю, што заўтры будзе дождж.* Хоцімск.

ПРЫПРЭЖНЫЙ, *прым.* Прыпражны. *Зыпражыця вы адныго кыня — пыцягніць і адзін, навошта той прыпрэжны конь!* Ушакі Чэрык.

ПРЫПУСЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Дапасаваць. *Нешчыльна браўно прыпусьціў — шчыліна ёсьць.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫПЫДАЦЬ, *дзеясл.* Прападаць, гінуць. *Етыя сіміна дужа ўсхожы: ніводныя каліва ні прыпыдаець — усі ўсходзяць.* Арцёмаўка Мілаcл.

ПРЫПЫЗНА, *прысл.* Позна, пазнавата. *Було ўжо такі прыпызна, як прыехылі ў Клімувічы.* Турэйск Краснап.

ПРЫПЫЛАЦЬ, *дзеясл.* Прапалаць, ачысціць зерне ад пылу [і смецця]. *Вазьмі пыланкі ды прыпылай проса, што я стоўк.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫПЯВАЦЬ, *дзеясл.* Падпяваць. *Ты пей, а я буду табе прыпявваць.* Палуж Краснап.

ПРЫРАВАК, -ўка, *м.* Рукаў рова. *Кыля прыраўка стаіць дуб. Каля прыраўка, што ідзе ад рова, за бугром, я знайшоў нейкую цацку.* Касар Чэрык.

ПРЫРАЗЬЛІВА, *прысл.* [Выразна], ясна. *На трэцім годзіку Янка зыгыманіў прыразьліва.* Варанева Крыч.

ПРЫРАМЫК, -мка, *м.* Прылямак, перад у рубашцы. *Ушый мне ў рубашку прырамык.* Бялішчына Мсцісл.

ПРЫРАСЬЦІ [прарэсьць], *дзеясл.* Прарасці. *Мы жалі зялёныя жыта, а цяперь, як прайшоў дождж, яно ныбрякла і прырасло.* Слаўнае Мсцісл.

ПРЫРВАЦЦА, *дзеясл.* Прырвацца, дарвацца, дапасці. *Во прырваўсь ды яды, і за вушы ні адиягніш — усё роўна, што тры дні ў хляве стыяў.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫРВАЦЬ, *дзеясл.* Прарваць. *У павыдкі грэблю прырвала, дык цяперь речка саўсім пірясохла.* Бяседавічы Хоцім.

ПРЫРОДЖАНКА, -і, *ж.* Ураджэнка. *Каб іна была прыроджанка у нашый дзярэўні, ато таксама, як і я, прыхожая.* Радзіонаўка Мсцісл.

ПРЫРЭЗ, -а, *м.* Нутрэц. *У прырэза ня будзя добрыга сала ніколі.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫСЕСЬЦЬ, *дзеясл.* Прысесці. *Зынялі ўсі месцы, што чылавеку нейдзе й прысесьці.* Ушакі Чэрык.

ПРЫСІЛЕНЬНЯ, -я, *н.* Прымус. *Па прысіленьню я к табе ні пайду, а калі папросіш добра, тады ўжо мо.* Ушакі Чэрык.

ПРЫСКАЦЬ, *дзеясл.* Пырскаць. *Досыць, дзеці, прыскаць, памоклі ўжо да вушэй.* Добрае Мсцісл.

ПРЫСКІ, -аў, *мн. л.* 1. Пырскі [кроплі вады, дажджу]. *Глянь ты на етыя дзіцянё: бяжыць пы вадзе, аж прыскі вышэй яго ліцяць.* Журбін Бялынкав. 2. Іскры. *Як смыляну́ў ён мяне, дык аж прыскі з воч пасыпалісь.* Добрае Мсцісл.

ПРЫСКРЫНЫК, -нка, *м.* Скрыначка ў сярэдзіне сундука для дробных рэчаў. *Пыкладзі ету дробізь у прыскрынык.* Хвёдараўка Краснап. *Адчыні сундук і пылажы гузікі і гаплічкі ў прыскрынык.* Бяседавічы Хоцім.

ПРЫСКЫКЫМ, *прысл.* Паспешна, спяшаючыся [асобнымі мінутамі]. *Прыскыкым работыла, пакуль ня скончыла.* Брылёўка Краснап.

ПРЫСЛАЦЬ, *дзеясл.* Прыслаць. *Мне брат прыслаў два чырвонцы грошаў.* Пірагова Мсцісл.

ПРЫСМАКІ, -аў, *мн. л.* Прысмакі, штонебудзь смачнае. *Прысмакыў табе зыхацелысь — еж тое, што ўсе ядуць.* Хвёдараўка Краснап. *Еж крупеню, ато прывык на прысмакі, а тут іх німа, прысмакый тваіх.* Пацкава Мсцісл.

ПРЫСМАЛІЦЬ, *дзеясл.* Хутка прыехаць [прыбегчы]. *Забілі чылавека там — міліцыя ўжо прысмаліла.* Палуж Краснап.

ПРЫСНАК, -а, *м.* Праснак. *Ны сьніданык сьпікла прыснакоў.* Цівецкая Краснап.

ПРЫСНІЦЦА, *дзеясл.* Прысніцца. *Хлопчыку прыснілась нябожчыца-маці.* Ганнаўка Клім.

ПРЫСОС, -у, *м.* Нізкае, вільготнае месца з глейкаватаю глебаю. *Што тут вырасьцець на етым прысосі? У мокры год усё вымыкніць, а ў сухей — высыхнець.* Касар Чэрык.

ПРЫСОСЬЛІВЫЙ, *прым.* Нізкі, вільготны і глеісты (пра глебу). *Ета зімля прысосьліва, цяжкыя зімля.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫСПАКОІЦЦА, *дзеясл.* Супакоіцца. *Калі ўжо етыя дзеці прыспакоюцца?* Хоцімск.

ПРЫСПАЛІТЫЙ, *прым.* Скупы. *У етыга прыспалітыга ня дужа што возьміш.* Кокатава Мсцісл.

ПРЫСПАСОБІЦЬ, *дзеясл.* Набыць [прыдбаць, прыстарацца]. *На кірмашы прыспасобіла сабе кароўку.* Б. Хутары Краснап.

ПРЫСТАВАЦЬ, *дзеясл.* Прыставаць, надакучаць. *Годзі табе ка мне прыставаць, усё роўна нічога ні палучыш.* Бяседавічы Хоцім. *Калі пачнуць дужа прыставаць, будзем быраніцца.* Пірагова Мсцісл.

ПРЫСТАВІЦЬ, *дзеясл.* 1. Даставіць. *Прыставіў я дваццыць пудоў жыта на ссычны пункт, а там прымаць некыму.*

Краснаполле. 2. Прыставіць. *Прыстаў лесьвіцу к сьцяне, ды дзяржы, штоб ні ўпала, а я палезу.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫСТА́Н -у, *м.* Прыпынак, прытулак. *Прыстану мне нідзе німа, адзін я на ўсім сьвеці.* Палуж Краснап.

ПРЫСТА́НІШЧА, -а, *н.* Прыпынак, прытулак. *Ён жа ніякыга прыстанішча ні маіць — во гэтак і цігаіцца пы сьвеці: у каго дзень прабудзіць, у каго два.* Ушакі Чэрык. *Найда ты, табе ўсё прыстанішча німа.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫ́СТАНЬ, -і, *ж.* Прыстань, месца, дзе прыстаюць караблі. *Хлопіц на прыстані работыіць грузчыкам ці што.* Касары Чэрык.

ПРЫСТА́НЬНЯ, -я, *н.* Далучэнне. *Ні рады мы былі яго прыстанью к нам, але і кінуць аднаго сярод лесу было шкода.* Ушакі Чэрык.

ПРЫСТАРА́ЦЦА, *дзеясл.* Прыстарацца, набыць. *Пашлі мы з самыга раньня, каб прыстарацца дзе-нібудзь сабе хлеба.* Ушакі Чэрык.

ПРЫСТАРЭ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Марудзіць з работаю за размоваю. *Ні прыстарэкый тамыцька, а хутчэй кладзі ў копы, ато дождж будзя.* Маластоўка Краснап.

ПРЫСТА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Прыстаць, стаміцца. *Конь сусім прыстаў, мабыць, і да дому ні даедзім.* Парадзіна Мсцісл. 2. Далучыцца. *Нейкі чылавек прыстаў ак нам у дарозі, і мы пайшлі зь ім разым.* Палуж Краснап.

ПРЫСТО́ІЦЬ, *дзеясл.* Прыпыніцца. *Як сустрэла яе, дык трошкі прыстоіла, распытала пры бацькоў.* Старае Сяло Мсцісл.

ПРЫСТО́ЛАК, -лка, *м.* Лаўка пры стале, зэдлік. *Прыстаў прыстолак ды сядзь к сталу бліжэй.* Барысавічы Клім.

ПРЫСТРО́ІЦЬ, *дзеясл.* Прыладзіць. *Тут німа завоскі, нада прыстроіць.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫСТУДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Прастудзіцца. *Огнік пы бырадзе пашоў — прыступзілась нейдзе.* Гаўрыленка Бялынкав. *Я, знаць, прыстудзілась, што колькі пашлі пы ўсяму целу.* Бяседавічы Хоцім.

ПРЫСТУ́КНУЦЬ, *дзеясл.* Прыбіць, прыціснуць. *Сёмку дрэвам прыстукнула, і цяперыцька акрывеў.* Тур'я Краснап.

ПРЫСТУПІ́ЦЦА, *дзеясл.* Прыступіцца. *Прыступілыся нейкае ліхалецьця ны маю гылаву.* Хвёдараўка Краснап. *Комныту абклеіць нада, ды абоі дорыгі — ні прыступісься.* Зарэчча Мсцісл.

ПРЫСТЫНЯ́, -і, *ж.* Прасцірадла, тонкая посцілка. *Зысьцялі крываць чыстыю прыстынёю, ато ета ўжо брудныя стала.* Слаўнае Мсцісл.

ПРЫ́СТЫЎ, -ва, *м.* Прыстаў, начальнік стану пры царскім ладзе. *Прыстыў зычаў біць мужукоў.* Палуж Краснап. *Як пычылася рывалюцыя, дык прыстыва-ткі ўкоцылі — ня выдрыўся.* Маластоўка Краснап.

ПРЫСУЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Прысуджаць, прысуджваць. *Судзьдзя тут пумыліўсь: гэстыму чылавеку нельга было прысужаць столькі — ну месіц, другі і дос.* Ушакі Чэрык.

ПРЫСУШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Прасушыць. *Прысушы ў печы свае ванучкі, ато яны мокрыя.* Камароўка Крыч.

ПРЫ́СЫК, -ску, *м.* Прысак, гарачы попел і перапалены пясок. *Сып бульбу ў прысык, дык ў мамэнт сьпякецца.* Бяседавічы Хоцім.

ПРЫСЫ́ПШЧЫК, -а, *м.* Чалавек, што няпрошаным умешваецца ў размову, справу. *Бязь етыга прысыпшчыка нідзе ні абойдзіцца, толькі хто дзе зыгавора, дык і ён тут з сваім языком.* Касперка Міласл.

ПРЫСЬМІХАСТВУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Кпіць. *Нечыга вам прысьміхаствуваць мяне, я вам ні рыўня.* Горкі Краснап.

ПРЫСЬМІХА́ЎСТВО, -а, *н.* Кпіны, высмейванне. *Я к вам прышоў ні ны прісьміхаўство, і вы мяне ні прысьміхаствуйця.* Горкі Краснап.

ПРЫСЬЦІБА́Й, -я, *м.* Прыхвасцень. *Цябе, прысьцібая, тут ня просюць.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫСЬЦІ́ГНУЦЬ, *дзеясл.* Насцігнуць, дагнаць. *Людзі пыгналіся за тым чылавекым і пад лесым прысьцігелі яго.* Палуж Краснап.

ПРЫСЯДЗЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Прасядзець. *Прысядзеў увесь дзень у суседа, пад вечыр двору прышоў.* Бабынічы Мсцісл.

ПРЫСЯ́НКА, -і, *ж.* Прасянка, прасяная салома. *У мяне быгата прысянкі, затое пшанічнай саломы німа.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫТ, -у, *м.* Прыт [жвавасць, рухавасць]. *Саўсім стары, хворый, і адкуль у яго той прыт бярэцца: устаець да сьвету, топчыцца, работыіць дзень і лажыцца разым з мыладымі.* Слаўнае Мсцісл.

ПРЫТАВЕ́С, -а, *м.* Вяроўка або жэрдка, прызначаная для развешвання бялізны. *Плацьця павесь на прытавес, хай прасохніць.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫТАГО́СІЦЬ, *дзеясл.* Прынесці, прыцягнуць. *Я прытагосіў ужо мех травы длі каровы.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫ́ТАЛКА, -і, *ж.* Бакавы стаяк асады ў вокнах, дзвярах. *Прыталкі крыва ў вокнах стыяць.* Крычаў. *У мяне ў вокнах прыталкі пагнілі, нада новыя дзелыць.* Касары Крыч.

ПРЫТАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Пратапіць [напаліць]. *Нада луччы печ прытапіць, ато бед пракісьніць.* Арцёмаўка Міласл.

ПРЫ́ТКІЙ, *прым.* Прыткі, скоры. *Іш, пры́ткей — ураз зьлётаў: адна ныга тут, а другая там.* Парадзіна Мсцісл. *Наш конь ды таго пры́ткі, ны адным месьці устыяць ні можыць.* Слаўнае Мсцісл.

ПРЫ́ТНЫЙ, *прым.* Прыткі [скоры]. *Якей ты прытный!* Палуж Краснап. *Прытныя дзеўка ета Антоля — усюдых пасьпеіць.* Шэвялёўшчына Мсцісл.

ПРЫТО́МНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Прытомнасць, прысутнасць памяці. *Пасьлізнуўшысь, так бразнуўся, што ўстаць ні можыць — ляжыць біз усякый прытомнысьці.* Ушакі Чэрык.

ПРЫТУ́ГА, -і, *ж.* Жаль, туга. *Тыкая мяне прытуга ўзіла, што брат паехаў, што я аж зыплакыла, думаю — дрэнна будзіць*

*яму там.* Ушакі Чэрык. *Прытуга мыя дужа большая.* Б. Хутары Краснап.

ПРЫТУ́ЛАК, -лку, *м.* Прытулак. *Атпакутаў я, калі ня меў ніякыга прытулку.* Пірагова Мсцісл.

ПРЫТУЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Прытуліцца. *У нашым лесе прытуліўся нейкі уцікач.* Лешчынка Мсцісл. *Ці можна ў вас прытуліцца, добрыя людзі, хоць ны адну ноч?* Ушакі Чэрык.

ПРЫТУЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Прытуліць, прыгалубіць, прыласкаць. *Як памёрла мыя матка, дык німа каму і прытуліць мяне — усі толькі і ведаюць, што лаюцца.* Ушакі Чэрык.

ПРЫТУ́ЛІШЧА, -а, *н.* Прытулак. *Дос табе быдзяцца па ўсіх — пыра знайсьці адно якоя прытулішча.* Ушакі Чэрык.

ПРЫ́ТХЛЯ, -і, *ж.* Затхласць. *Выда з вашыга калодзіся прытыхлю ваніць.* Сохана Мсцісл.

ПРЫТЫРЧА́КА, -і, *ж.* Востры калочак, трэска. *Прабіў нагу аб нейкую прытырчаку.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫЎЗАБЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Забыцца. *Жонка прыўзабыла пірікызаць вам етыя словы.* Палуж Краснап.

ПРЫЎЛА́ШЧЫЦЬ, *дзеясл.* Прысвоіць. *Узяў маю сьвіту ды й прыўлашчыў ужо сабе: ні атдам, кажыць, табе, ета мыя.* Ушакі Чэрык.

ПРЫХАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Прыходзіць. *Бягі наўскыч і скажы яму, каб скарэй дамоў прыхадзіў.* Лешчынка Мсцісл.

ПРЫХА́ДКА, -і, *ж.* Праходка, шпацыр. *Пан часта на прыхадку сюды хадзіў.* Тур'я Чэрык.

ПРЫХАМЕ́ТНІК, -а, *м.* Вядзьмак. *Жыў у тэй дзярэўні прыхаметнік: усё ён мог зрабіць, усякыга чылавека зачырываць і загубіць.* Барысавічы Клім.

ПРЫХАМЕ́ТЫ, -т, *мн. л.* Забабоны. *Бабы слухаюць усякія прыхаметы.* Маластоўка Краснап.

ПРЫХВО́СТНІК, -а, *м.* Прыхвасцень. *Ты яго прыхвостнік!* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫ́ХВЫТЫМ, *прысл.* У момант, адразу [адным махам]. *Як узяўся, дык прыхвытым успыхаў палоску.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫХЛО́ПАЦЬ, *дзеясл.* Прысудзіць. *Сяньні ў судзе мне добра прыхлопылі.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫХМА́РЫЦЬ, *дзеясл.* Прыхмарыць, нахмурыцца. *Нешта прыхмарыла, відна, дождж будзя.* Сохана Мсцісл.

ПРЫХО́Д, -у, *м.* Прыход [парафія]. *На сповідзь ідзі к нашыму папу, у наш прыход, у траецкую царкву.* Парадзіна Мсцісл.

ПРЫХО́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Прыходзіць. *Зайтры прыходзь ка мне пысьля абеду.* Вярбоўка Расням. *Сяньня прыходзіў ка мне Мікола.* Галоўчыцы Калінінщчына. *У школу ня прыходзіла, бо абутку ня было.* Мсціслаў. *Мой мужык прыходзіць позна з работы.* Лешчынка Мсцісл.

ПРЫХЫЛЫДА́ЦЬ, *дзеясл.* Асвяжыцца халодным паветрам. *Пойдзем прыхылыдаім ны дварэ, ато 'т жары гылыва баліць.* Палуж Краснап.

ПРЫЦЁГЦІСЯ, *дзеясл.* Прыцягнуцца. *Чаго прыцёгсі? У зьведкі, мусіць,— ці ні можна будзіць ночы прысьці красьць?* Ушакі Чэрык.

ПРЫЦІ́, *дзеясл.* Прыйсці. *Я хацеў ды цябе прыці ўчора ўвечыры, але ды мяне прышоў Пятрок, і мы прысядзелі цэльный вечыр.* Аляксандраўка Краснап. *Прыдзі ка мне сяньні вечырым.* Бялынкавічы.

ПРЫ́ЦІМКЫМІ, *прысл.* Прыцемкам, калі сцямнее. *Прыцімкымі я ўжо выйшыў ад іх.* Горня Хоцім.

ПРЫЦУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Працаваць. *Было урем, нада було і ны пана прыцуваць, і на чыноўнікуў, і сваё усьпець пыработыць.* Арцёмаўка Мілаcл. *Мне спірша нада дзяцей угамаваць, а тады іціць прыцываць.* Лешчынка Мсцісл.

ПРЫЦЬВІРАДЖЭ́НЬНЯ, -я, *н.* Працверажэнне, зварот у цвярозы стан. *Ужо каторы дзень яму прыцьвіражэньня німа: усяды ён п'яный.* Слаўнае Мсцісл.

ПРЫЦЬВІРЫДЖА́ЦЦА, *дзеясл.* Працвярэжвацца, прыходзіць у сябе пасля атручэння алкаголем. *Нешта дужа скора ён пычаў прыцьвірыджацца, і сівуха яго ні бярэць.* Слаўнае Мсцісл.

ПРЫЦЬВІРАЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Працверазіцца, стаць цвярозым. *Біўсь, ругаўсь, а як прыцьвіразіўсь — нічога ні помніў.* Старае Сяло Мсцісл.

ПРЫЦЯГНУ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Прыцягнуць, прывалачы. *Я сяньні так зымарыўсь, што ледві ногі прыцягнуў.* Сохана Мсцісл. 2. Выцягнуць, выпрастаць ногі. *Стыгнаў, стыгнаў, пакуль і ногі прыцягнуў.* Пірагова Мсцісл.

ПРЫЦЯЦЁХЫЦЦА, *дзеясл.* Стаміцца. *Работыў, работыў ды прыцяцёхыўсь.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫЧАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Прычапіць. *Як прычапіў былабон кошкі за хвост, а іна й бегыіць, носіцца пы хаці.* Шарэйкі Касцюк. *Прычапіў званочкі пыд дугу ды паехаў у сваты.* Ушакі Чэрык.

ПРЫЧАПІ́ЦЦА, *дзеясл.* Прычапіцца. *Нейкі ціпыцінь прычапіўся ны язык.* Хвёдараўка Краснап. *Адчапісь ад мяне, шытанскыя сіла, чаго ты ды мяне прычапіўся?* Брылёўка Краснап.

ПРЫЧУХА́НКА, -і, *ж.* Праборка, прачуханка. *Бацька добрыю прычуханку даў сыну за то, што коні пусьціў у авёс.* Слаўнае Мсцісл.

ПРЫЧХА́ЦЦА, *дзеясл.* Прагаладацца, зглаладнець, захацець есці. *Прычхаўся, дык цяпер есьць ва ўсю мяліцу.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫ́ЧЧА, -ы, *ж.* Нечаканая хвароба, бяда. *Нейкыя яму прычча ні с таго ні сь сяго прычапілыся.* Горы Краснап.

ПРЫЧЫНДА́ЛЬЛЯ, -я, *н. зборн.* Усякія дробныя рэчы ў гаспадарцы [прылады, начынне]. *Ці мала ў нас етыга прычындальля, а бізь яго ні абойдзісься — у гыспыдаркі ўсё патрэбна: і кычырга, і чыпіла, і вожыг і той нада.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫЧЫНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Прычыніць. *Прычыні дзьверы ны клямку.* Сохана Мсцісл.

ПРЫЧЫСА́ЦЬ, *дзеясл.* Прычасаць. *Столькі работы, што косы прычысаць не-*

*кылі, так і хаджу во лахудрый, а няхай яго!* Барысавічы Клім.

ПРЫЧЭ́ПЛІВЫЦЦА, *дзеясл.* Прычэплівацца, прыставаць. *Пірістань ты к яму прычэплівыцца, што табе ат яго нада.* Бяседавічы Хоцім.

ПРЫША́ХЫЦЬ, *дзеясл.* Прыйсці [прышагаць]. *Дзеўкі з хлыпцамі прышахылі к нам у хату.* Маластоўка Краснап.

ПРЫ́ШВА, -ы, *ж.* Тоненькая жэрдачка, якою прывязваецца рад саломы да латы ў часе крыцця страхі. *Прывязывай прышву крапчэй, ато вецір салому рызьнясець.* Маластоўка Краснап. *Нывазіў сабе прышвыў, хачу пірякрыць хату, ато цякець у дождж.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫШЛЕ́Й, *прысл.* Прыдатней, больш дарэчы. *Ты, як меньшыя, дык табе прышлей пасьвіць кароў.* Куркаўшчына Мсцісл.

ПРЫШПО́ТЫРЫЦЬ, *дзеясл.* Прыляпаць, даць. *Прышпотырылі дваццыць рублёў штрафу, і плаці біз усякіх.* Лютня Краснап.

ПРЫШЧАМІ́ЦЬ, *дзеясл.* Прышчаміць, прыціснуць. *Прышчаміў я паліц у дзьвірах, аж шчарнеў увесь.* Ушакі Чэрык.

ПРЫШЧУ́РА, -ы, *ж.* Падслепаваты чалавек. *Вот ужо нейкыя прышчура — нічога ні бачыць.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫШЫБНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Ашукаць, абмануць. *Ён мяне хочыць прышыбнуць, ды ні таго ныпаў — мяне, брат, ні прышыбнеш.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЫШЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Прышываць. *Што ты робіш так позна? Ды вось, таічка, кузікі прышываю к рубашкі, штоб нызаўтры Якыву пасьпець надзець.* Калінічшчына.

ПРЫШЫНА́ЦЦА, *дзеясл.* Прачынацца, прабуджацца. *Мяне будзіць ні нада, я сам кожны раз прышынаюсь.* Арцёмаўка Міласл. *Іна рана прышынаіцца.* Бардзіч Краснап.

ПРЫШЫ́ТЫЙ, *прым.* Прышыты. *Гафт прышыт ды спадніцы. У міне палік прышыт з другога пылытна.* Юшкавічы Расням.

ПРЫШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Прышыць. *Прышый каўнер к сарочкі.* Юркавічы Клім. *Дзяўчына прышыла к пярэдніку карункі.* Усполле Расням. *Маці прышыла к хвартуку матуз.* Ганнаўка Клім.

ПРЫЮ́ТЫЙ, *прым.* Мілы, прыгожы, прытульны. *Прыютый гал у лесі.* Палуж Краснап.

ПРЫЯ́ВА, -ы, *ж.* Праява, з'ява. *Во я сяньні відзіла прыяву адну: воўк було ярку схваціў, а як увідзіў, што сыбакі ныступаюць, дык зьбег і ярку пакінуў.* Арцёмаўка Міласл.

ПРЫЯ́ЗЬЛІВА, *прысл.* Прыязна, прыхільна. *Я ж ды свае нявесткі дужа прыязьліва аднасілась, а іна мне дулю пад нос за ета выставіла.* Добрае Мсцісл.

ПРЫЯЦЕ́ЛЬ, -я, *м.* Прыяцель. *Вось нашоўся прыяцель! Ат такога прыяцеля пыдальш!* Дзеражна Касцюк.

ПРЫЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Прыяць, спрыяць, адносіцца да каго з прыхільнасцю, з добрымі пажаданнямі, з прыязню. *Чаму мне яму ні прыяць, калі ён даў мне грачыхі на семя.* Добрае Мсцісл.

ПРЭ́ДКІ, -аў, *мн. л.* Продкі, бацькі, дзяды і прадзеды. *І стаў ён жыць у вялізных пакоях адзін, дзе прэдкі яго жылі.* Ушакі Чэрык.

ПРЭ́К, -у, *м.* Пярэчанне, спрэчка. *Між імі заўсёды прэк: калі ён кажыць чорна, дык іна кажыць, што гэста бела.* Ушакі Чэрык.

ПРЭКАЛЁВЫЙ, *прым.* Паркалёвы, зроблены з паркалю. *Прэкалёвый хвартук дужа маркі.* Лютня Краснап.

ПРЭ́КАЛЬ, -ю, *м.* Паркаль. *Я купіла сабе прэкалю ны хвартук.* Маластоўка Краснап.

ПРЭ́ЛЬЛЯ, -я, *н.* Прэль, гніль. *Адно прэльля зысталося.* Маластоўка Краснап.

ПРЭ́СНАК, -а, *м.* Праснак. *Я сьпякла сястрэ прэснак, бо яна хацела есьці.* Прыпечына Касцюк.

ПРЭ́ЦІ, *прысл.* Проці, супроць. *Ат цібе я дыбра ні чыкаю, бо ўсюды ты гаворыш прэці мяне.* Ушакі Чэрык.

ПРЭЧ, *дзеясл.* Прэгчы, пячы, смажыць. *На пычастуньк уздумыла прэч яешню с кыўбасой.* Галоўчыцы Калінінцчына. *Ны цяпле прэглі сала.* Бяразак Краснап.

ПРЭЧ, *прысл.* Прэч, вон. *Ідзі прэч адцюль, штоб твайго й духу тут ні було!* Куляшоўка Клім.

ПРЭ́ЧКА, -і, *ж.* Спрэчка. *І навошта гэстая вечныя прэчка — вось абы толькі гыварыць ні так, як я.* Ушакі Чэрык.

ПРЯ́ГКІЙ, *прым.* Ломкі, што лёгка ломіцца. *Ета дзерыва прягкыя, яго ні сагнеш — зарыз лумаіцца.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЯДЗЕ́РЬЖЫНЫЙ, *прым.* Пратрыманы. *Хлопцы пупрястужваліся, прядзерьжыныя цельный дзень ны марозі і біз ежы.* Касцюковічы.

ПРЯДМЕ́Т, -а, *м.* Прадмет, рэч. *Тут у мяне і мылаткі, і тыпары, і гвозьдзя, і ўсякія плотніцкія прядметы.* Пірагова Мсцісл.

ПРЯ́ЖА, -ы, *ж.* Пража. *Я ныпряла многа пряжы.* Затоны Расням. *З кудзелі воўны я ныпряла два хунты пряжы.* Бяседавічы Хоцім.

ПРЯ́ЛЬЛЯ, -і, *ж.* Пралля. *Іна дужа ладныя пральля. Хунта пуўтыра ў дзень ныпрядзець.* Слаўнае Мсцісл. *Нытальля — пряльля, Кузьма — віряценьнік.* Палуж Краснап.

ПРЯ́МА, *прысл.* Проста. *Ён сек дрэва ні пряма, а накысяк.* Слаўнае Мсцісл. *Во зрушны етыя набілкі, бёрда само пряма ходзіць.* Бяседавічы Хоцім.

ПРЯ́НІЦ, -а, *м.* Пернік. *Етый пряніц ужо засохлый, што яго ні укусіш.* Карма-Пайкі Краснап.

ПРЯ́НЬНІК, -а, *м.* 1. Пернік. *Маці купіла у горідзі пряньнікыў мядовых — во укусныя.* Бардзіч Краснап. 2. Пранік, прылада праць бялізну. *Бярі во пряньнік ды пойдзем на речку, я бяльлё пынясу.* Цівецкая Краснап.

ПРЯ́СЛА, -а, *н.* Прасла. *Нашлежнікі рысьцягнулі ўсё прясла.* Бяседавічы Хоцім.

*Пастаў прясла ны гародзе.* Юркаўка Крыч. *Іван абгырадзіў свой гарод пряслам.* Гарбавічы Касцюк. *Кыля гароду каровы прясла пулумалі, нада зыгырадзіць.* Арцёмаўка Міласл.

ПРЯСНО́К, -а, *м.* Праснак. *Ні хваціла хлеба, дык я ныпікла прі́снакоў пакуль што. Пряснок пыдгарей, дык ня дужа смашный.* Слаўнае Мсцісл.

ПРЯ́СЬЛІЦА, -ы, *ж.* Прасніца, станок, да якога прывязваецца кудзеля, як прадуць. *Баба прівізала к прясьліцы кудзелю воўны і пычыла прясьць.* Гібалы Касцюк. *Прівяжы к прясьліцы кудзельку воўны, а я во спраўлюся ды сяду прясьць.* Слаўнае Мсцісл.

ПРЯСЬЦЬ, *дзеясл.* Прасці. *На етый сыныпрядкі прясьць нільзя, таму што кылаўрот зламіўся.* Маркаўка Хоцім. *Ты надта марудна прядзеш, цеперсі ты села прясьць, а толькі адну ручайку ныпряла.* Роськаў Калініншчына.

ПРЯ́ТАЦЬ, *дзеясл.* 1. Біць. *Сёмка іх прятаў, прятаў — пряма рукі пыадбіваў.* Цівецкая Краснап. [2. Ачышчаць]. *Яны ляда прячуць.* Хвёдараўка Краснап.

ПРЯ́ХА, -і, *ж.* 1. Пралля. *Ну і пряха сь цябе, сколькі ты ныпряла?* Васілеўка Хоцім. 2. Самапрадка. *Дзяўчына пряла на пряхі.* Іванаўка Хоцім.

ПРЯ́ЧЫК, -а, *м.* Тоўстыя ніткі з канапель, з якіх уюць вяроўкі. *Надзелый прячыкый — буду віць аборкі.* Хвёдараўка Краснап.

ПСАЛО́МШЧЫК, -а, *м.* Дзяк. *Ён жа быўшы псаломшчык з нашыя царквы.* Студзянец Касцюк.

ПСІ́НЫЙ, *прым.* Сабачы. *Што ты там дзелыіш, псіныя морда, жыва аттуль убірайсь!* Бяседавічы Хоцім. *У яе язык, што псіный хвост віляіць.* Гарбавічы Касцюк.

ПСУВА́НЬНЯ, -я, *н.* Псаванне. *Еткыя псуваньня хлеба ні гадзіцца, калі есьць, дык еж, а ні крышы!* Слаўнае Мсцісл.

ПСУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Псаваць. *Я ні хачу псуваць бацінкі — ў етыкую гразь іціць упоцімку.* Слаўнае Мсцісл. *Дзеці, дос вам дзьмуць бурдылі — толькі мыла псуіцё!* Ушакі Чэрык. *Ня ўмеіш тыпаром уладзець, дык і дрэва ні псуй.* Дубеец Касцюк.

ПСЯ́ЧЧЫЙ, *прым.* Сабачы. *Ета псяччыя ежа, чылавек есьць ні будзіць.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПТАСТВА, -а, *н. зборн.* Птаства, птушкі. *І навошта вы рызьвялі столькі птаства розныга: і куры, і гусі, і вуткі — навошта яно?* Ушакі Чэрык. *У нас поўный двор усякыга птаства.* Тур'я Краснап.

ПТУШАЛО́Ў, -ва, *м.* Птушкалоў, чалавек, што ловіць птушак. *Наш птушалоў палез ужо па дрэвых птушык лавіць.* Хвёдараўка Краснап.

ПТУШАНЕ́НЫК, -нка, *м.* Птушанё. *Пылянь, мама, я пыймаў птушанёнка.* Хвёдараўка Краснап.

ПТУШАНО́К, -нка, *м.* Птушанё. *Птушанок выліціў з гнізда.* Хвёдараўка Краснап.

ПТУША́ТНІК, -а, *м. заал.* 1. Птушатнік (ястраб). *Птушатнік лётыя, піскля́т штоб ні пыбраў.* Хвёдараўка Краснап. 2. Хлапец, што разбурае птушыныя гнёзды. *Атлупцуй ты етыга птушатніка, штоб ён ні разбураў гнёздый.* Хвёдараўка Краснап.

ПТУ́ШКА, -і, *ж.* Птушка. *Ны бярозу села нейкыя птушка.* Чыгрынаўка Раснян. *Бачыш, ляціць нейкыя птушка — ні то варона, ні то галка?* Ушакі Чэрык. *Пріляцелі к нам ужо птушкі з выраю.* Лапаціна Мсцісл.

ПТУШШО́, -а, *н. зборн.* Птаства. *Сколькі усякыга птушша ныляцела, проста страх. І чым ета птушшо корьміцца ўзімку?* Гацуеўка Краснап.

ПТУШЫ́НЫЙ, *прым.* Птушыны. *Нейдзе чуцін птушыный піск — тут гняздо павінна быць блізка.* Гарбавічы Касцюк. *Я знайшоў птушыныя гняздо.* Хвёдараўка Краснап.

ПТУШЫНЯ́ТКА, -а, *н.* Птушанё. *Птушынятка малінькыя із гнізда ўпала, а птушка лётыіць наўкруг і піскыіць.* Брылёўка Краснап. *Лядзі, вось нейкыя птушынятка мёртвыя — жаўрынак ці што.* Канахоўка Клім. *Нашто ты птушынятык давіш, птушатнік ты, аторва еткыя!* Лютня Краснап.

ПУБА́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Пабачыць. *Бацька, як пубачыў бягню кабылы, зымануўся яе купіць.* Самацэвічы Касцюк.

ПУБІРА́ЙЛА, -а, *м.* Зборшчык падаткаў (пагардлівая назва). *Раньшы пубірайлы быялісь: кылі німа грошы ны пыдатак, дык забіраў скаціну ці што з хаты.* Шумячы.

ПУБЛУДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Паблудзіць. *Дывялось мне публудзіць ны сваём вяку, ну, а штоб так заблудзіцца, як мы сяньні, дык ета первый раз.* Бяседавічы Хоцім.

ПУ-БРА́ЦКУ, *прысл.* Па-брацку, пабратэрску. *Я ж яму гуварыў, дувай жыць пу-брацку, будзім пумыгаць адзін аднаму, дык ня хочыць.* Бяседавічы Хоцім.

ПУБРЫКЫВАЦЬ, *дзеясл.* Паганьбіць. *Сьмеў ён пубрыкываць сваёй нявестый.* Слаўнае Мсцісл.

ПУБУЗЫВА́ЦЦА, *дзеясл.* Разбурыцца. *Мост і грэбля пубузываліся, іх ужо дзесіць гадоў ні правілі.* Гарадзец Бабр.

ПУБЯДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Зрабіцца бядзе. *Сяньні мне пубядзілыся — конь адзін быў, ды тэй здох.* Палуж Краснап.

ПУБЯЛЕ́ЛЫЙ, *прым.* Збялелы, бледны. *Ты што такей пубялелый ходзіш, ніздароў ці што?* Гарадзец Бабр.

ПУБЯЛЕ́ЛЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Бледнасць [збялеласць]. *У яго нейкыя пубялелысьць ны аблі́ччы — наверна, бальнэй чылавек.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПУБЯЛЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Збялець. *Во, спужаўсь! Дажы пубялеў увесь ат стряху.* Гарцуеўка Краснап.

ПУБЯЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Пабяліць. *Хату знутры пубялілі, дык весялейшая нейк стала.* Палуж Краснап.

ПУВА́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Унадзіцца [спанатрыцца]. *Калі ўжо й пувадзіцца хадзіць куды, дык, як кот у сала, дваццыць разоў на дні ён прыдзіць. Пувадзіўся ён ка мне хадзіць, дык ніякім спосыбам яго ні атвучыш.* Бяседавічы Хоцім.

ПУВА́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* 1. Прывучыць, спакусіць. *Сам ходзіш па шынках, і майго пувадзіў, штоп ты пріпаў, вылацуга пріклятый.* Тур'я Краснап. 2. Паказаць дарогу. *Ні знаў туды дарогі, ды знайшлісь дружкі — пувадзілі.* Гарадзеец Бабр.

ПУВАДЫ́РЬ, -я, *м.* Павадыр. *Сяньні ішоў старіц, а з ім малінькій пувадырь, верна, ён сьляпый, што малыга с сабой цігаіць.* Слаўнае Мсцісл.

ПУВАЛТУ́ЗІЦЦА, *дзеясл.* Пахадзіць, пацягацца [павалаводзіцца]. *Калі я быў мыладым, дык любіў пувалтузіцца пы лясу; калі грібоў кузуў прінясу, ато харошыга дуба нагледжу.* Бяседавічы Хоцім.

ПУВАРО́ТЛІВЫЙ, *прым.* Паваротлівы, рухавы. *Ён, як кот, мурлатый і ні пуваротліў, як мядзведзь.* Бяседавічы Хоцім.

ПУВІТА́ЦЦА, *дзеясл.* Павітацца. *Сьпірьва пувітаўсь з усімі, а тады ўжо стаў гуваріць, зачым прішоў.* Шумячы.

ПУВУМІ́ЦЬ, *дзеясл.* Падумаць, разважыць. *Пувумі, хлопча, што ты дзелыіш!* Беразякі Краснап.

ПУВУЦЕ́ЛЬ, -я, *м. бат.* Павой польны, бярозка, уюнок. *Пувуцель па жыці ўеցца, як па ніцыы.* Хвёдараўка Краснап.

ПУВУЧЫ́НА, -ы, *ж.* Павуціна. *Па вуглах пувучыны зывялося шмат, пыабмятай ты яе троху.* Высокі Бор Краснап. *Пувучына пыляцела — пагода будзіць цёплыя.* Бакунавічы Чэрык.

ПУВЫДУМЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* [Павыдумляць], выдумаць. *Пувыдумлялі цяперь нейкія вуцюгі ды гладжыньня; раней пыкычаў у кычалкі і ныдзівай так.* Слаўнае Мсцісл.

ПУВЫЛА́ЗІЦЬ, *дзеясл.* Павылазіць. *Ці ў цябе вочы пувылазілі, што ты ні бачыш, куды едзіш — тут жа воз стаіць.* Палуж Краснап. *Дыжджавыя чырвякі пувылазілі зь зямлі — знаць, надыйга задыжджыцца.* Журбін Бялынкав.

ПУВЫЛАЧЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Пабадзяцца. *Я люблю пувылачыцца па лесі.* Высокі Бор Краснап.

ПУВЫРЫ́ТНЫЙ, *прым.* (Абыдзённы). *Нікрасіва іці на кірмаш у пувурытный кохці. Ета ж у мяне пувурытныя спадніца, штодзённая.* Сутокі Мсцісл.

ПУ́ГА, -і, *ж.* Пуга. *Дзе пуга? Дай сюды падыгнаць гэстую быдлу.* Ушакі Чэрык. *У ізвошчыка заўсёды добрыя пуга.* Пухнава Расням. *Лянівый конь пугу любіць.* Дубеец Касцюк. *Дай яму пугі добра, дык пыбяжыць.* Канава Хоцім.

ПУ́ГАВІЦА, -ы, *ж.* Гузік. *У жупан ушылі пугавіцу.* Крычаў.

ПУГАУЁ, -я, *н.* Пугаўё, гнуткая палка, да якой прывязваецца пуга. *Узяў ён пугаўё ды пычаў хвыстаць сваю бенную кабылу.* Ушакі Чэрык. *Вельмі добрае пугаўё камышавае.* Пухнава Расням.

ПУГА́Ч, -а́, *м.* 1. Пуга́ч, пісталет-цацка. *З етыга пугыча можна куріцу убіць.* Палуж Краснап. 2. Той, хто палохае, пужае. *Ці ты абізуміў пугаць дзіцёнка, пугач пріклятый!* Дубеец Касцюк.

ПУГА́ЧЫК, -а, *м.* Памянш. ад пугач. 1. *Дзядзька прывёз мне пугачык і дваццыць патронаў.* Шарэйкі Касцюк.

ПУГУЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Пагуляць, пазабаўляцца. *Пугуляй троху, я зарыз усё зьдзелыю, дык і двору пойдзім.* Ельня Краснап.

ПУД, -а, *м.* 1. Пуд, мерка вагі ў 40 фунтаў. *Сёліта здору у мяне з пуд будзя.* Хвёдараўка Краснап. *Абважый мяне Лейзар — там было ня менш, як два пуды грачыхі.* Пірагова Мсцісл. 2. [Пуд], сполах, страх. *Зыдам я яму пуду. Яму ета стала з пуду.* Палуж Краснап.

ПУДБАРО́ДУШ, -а, *м.* Падбародыч. *Ого, якей у цябе пудбародуш вырас, як у кыбына.* Хвёдараўка Краснап.

ПУДБУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Абувацца. *Хлопіц устаў і пычаў пудбувацца, штоб коні вясьці.* Палуж Краснап.

ПУ́ДБУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Абуваць. *Стаў пудбуваць лапці, аж гляджу — абора пырвалысь.* Бардзічы Краснап.

ПУДГУВА́РЬВЫЦЬ, *дзеясл.* Падгаворваць, падмаўляць. *Прішоў к нам Сяргей і дывай пудгуварьвыць майго чылавека ехаць ны шахты.* Барагая Крыч.

ПУ́ДЗІК, -а, *м.* Памянш. ад пуд. *Зацэліў яшчэ хлеба к вясьне пудзікыў з дваццыць.* Хвёдараўка Краснап.

ПУ́ДЗІЛА, -а, *н.* Пудзіла. *Ні кудлач мне выласоў і так гылыва як пудзіла стала.* Ушакі Чэрык. *Чаго ты стаіш, як пудзіла гарохывыя?* Маластоўка Краснап. *Такоя пудзіла як вылізе — усі коні паўцікаюць.* Парадзіна Мсцісл. *Ты хоць прічашысь, пудзіла гародныя.* Горкі Краснап.

ПУДЗЮЎБА́ЦЬ, *дзеясл.* Пакляваць [пастукаць вострым]. *Трэба пудзюўбаць троху касу, ато прітупілысь і ня рэжыць травы.* Горка Краснап.

ПУ́ДЛА, -ы, *ж.* Страх, наганяй. *Дам табе пудлу, будзіш памітаць.* Хвёдараўка Краснап.

ПУДЛІ́ВА, *прысл.* Пужліва. *Ты што так пудліва аглідаісься, баісься чаго?* Дзянісавічы Навазыбк.

ПУДЛІ́ВЫЙ, *прым.* [Пудлівы], пужлівы, баязлівы. *Ты дужа пудлівый, як конь якей.* Хвёдараўка Краснап.

ПУДУЛА́ДНЫЙ, *прым.* Падуладны. *Я — чылавек пудуладный — што мне скажуць, тое й дзелыю. Сылдат ніволін у сябе, ён пыдуладный: што нічальства вяліць, то ён і спыўняіць.* Тур'я Краснап.

ПУДУРІ́ЦЬ, *дзеясл.* Падуроснічаць. *Пудурілі, хлопцы, і будзя: атдайця шапку — двору пара ісьці.* Восаў Краснап.

ПУЖА́ЛА, -а, *н.* Пужала, пудзіла. *У гаросе ад вераб'ёў пужала пыставілі.* Лапаціна Мсцісл. *Пыстаў у гародзі пужала, штоб куры і віраб'і быялісь.* Дубеец Касцюк. *Нада пужала ў гародзі пыставіць, ато зайцы капусту зьдзяць.* Арцёмаўка Краснап.

ПУЖЛІ́ВА, *прысл.* Пужліва, баязліва, са страхам. *Што ты так глядзіш ны яго пужліва — ён жа ні воўк, ні зьесьць цябе.* Ушакі Чэрык.

ПУЖЛІ́ВЫЙ, *прым.* Пужлівы, пудлівы. *Пужлівый конь усягды ўпудзіцца.* Хвёдараўка Краснап. *Наш конь дужа пужліў, як едзеш, дык заўсёды глядзі, штоб ні ўпудзіўся.* Сохана Мсцісл.

ПУЖУВАЦЬ, *дзеясл.* Пажаваць. *Цілёнык дзіцячую сарочку чыста пужуваў.* Баброва Раснян.

ПУЗДРА, -ы, *ж.* 1. Наздра, храпа. *Конь пуздры раздуў.* Горка Краснап. 2. Тоўсты чалавек. *Пуздра ты надутыя, табе лень ногі пыцягнуць, ды і куды ты такія калоды павернiш.* Слаўнае Мсцісл.

ПУЗДЫРЬ, -я, *м.* Пузач, тоўсты чалавек. *Каб ты лопнуў, пуздыр ты еткій.* Горка Краснап.

ПУЗЫРЁК, -рька, *м.* Шкло ад лямпы. *Пыдай-ка мне мядзьведзьку, нада пачысьціць пузырёк, ато ужу дужа ён зыкапціўсь.* Бяседавічы Хоцім.

ПУЗЫРЬ, -я, *м.* 1. Пузыр, пухір, вадыр. *Мураўі мяне так паджыгалі, што ўсё цела пузырямі стала.* Бяседавічы Хоцім. 2. Лямпавы рэзервуар, [у які наліваецца газа]. *Неяк выкінулась у мяне з рук лампа — пузырь так і рызьляцеўсь!* Пірагова Мсцісл. *Налі красіну поўный пузыр, штоб на вечыр хапіла.* Барысавічы Клім.

ПУК, -а, *м.* Пук, звязка [і сноп канопляў]. *Дзяўчына нырвала пук кынапелік.* Хвёдараўка Краснап. *Два пукі лёну нызьбірала, а потым дождж пашоў, дык я й пакінула.* Глупікі Крыч.

ПУКАЦЬ, *дзеясл.* Абіваць [цапамі] вусы ў [вымалачаным] ячмені, [выбіваць зерне з мякіны]. *Будзем пукаць ячмень.* Крычаў. *Бацька ў гумне, ячмень пукае.* Бакунавічы Чэрык.

ПУЛУДУР, -а, *м.* [Прыдурак], ідыёт. *Адзін сын у яе нейкій пулудур — ходзіць з аччыніным ротым і ўсё хіхікыіць німаведыма чаго.* Арцёмаўка Мiласл. *Міхей быў чылавекам, як і ўсе, а цяперя пулудурым стаў.* Пулаж Краснап.

ПУЛУМАЦЦА, *дзеясл.* Паламацца. *Грыхвіль пулумаўсь, і пісаць нечым.* Шарэйкі Касцюк. *Нацягывіч у кроснах пулумаўсь.* Цівецкая Краснап.

ПУЛУМАЦЬ, *дзеясл.* Паламаць, зламаць. *Аблігліcь на стол учатырох, дык і стол пулумалі.* Бяседавічы Хоцім. *Не хадзі па сеныжаці, ато я табе ногі пулумаю, што ты пожню топчыш?* Хвёдараўка Краснап.

ПУЛУПАЦІЦЬ, *дзеясл.* Памянціць, навастрыць [касу]. *Трэба пулупаціць касу, прытупілысь на етым наплыві.* Горка Краснап.

ПУЛУСЬВЕТ, -а, *м.* 1. Аднавокі чалавек. *Ён — пулусьвет, у яго только адно вока бачыць.* Брылёўка Краснап. 2. Бадзяка. *Етый пулусьвет дзе только ні круціўсь? Увесь сьвет аб'ехаў.* Там жа.

ПУЛУЧАЦЬ, *дзеясл.* Атрымліваць. *Што тут пулучаць? Пулучайце сена й авёс длі коній.* Мсціслаў.

ПУЛУЧОНЫЙ, *прым.* [Атрыманы]. *Грошы пулучоныя усі.* Палуж Краснап.

ПУЛЬГА, -і, *ж.* Мяцеліца, завіруха. *Як толькі выехалі, пычылася тыкая пульга, што сьвету ні відаць — дарогу ўмомант зынясло.* Мсціслаў.

ПУЛЬХЛА, *прысл.* Пульхна, рыхла, пушыста. *Сьнег ляжыць так пульхла, што як кінісься, так і зыхываісься, як у пуху.* Сутокі Мсцісл.

ПУЛЬХЛЫЙ, *прым.* Пульхны, мяккі. *Пылянь, які пульхлы сьнег, на ім бы і спаць мякка было.* Ушакі Чэрык. *Ныпікла я прыснакоў, ды вышлі такія пульхлыя, смашныя.* Куркаўшчына Мсцісл.

ПУЛЯМЁТ, -а, *м.* Кулямёт. *С усіх бакоў зытрішчалі пулямёты і загулі гырматы, пычаўся наступ.* Слаўнае Мсцісл.

ПУМАЛОЦЬ, *дзеясл.* Памалоць. *Дужа дренна пумалолі муку, як сеіш, дык астаецца пасьці пылавіна асевык.* Слаўнае Мсцісл.

ПУМАЧЫЦЬ, *дзеясл.* Памачыць, намачыць. *Бяльлё дождж пумачыў, треба зноў выкручываць.* Палуж Краснап.

ПУМІРАЦЬ, *дзеясл.* Уміраць. *Дос вам гыласіць па ём: ён ужу чылавек старый, урем пуміраць прышло; як вы памріцё, дык ён ныд вамі і сьлязы ні прароніць.* Бяседавічы Хоцім. *Яны ўжу такія людзі — як пычануць прінуждаць, дык хуць пумірай, ні 'твяжысься.* Слаўнае Мсцісл.

ПУМІШЧАЦЬ, *дзеясл.* Змяшчаць. *Як стаў я пумішчаць заметкі ў газету, дык і грошы ў мяне пыявілісь.* Бяседавічы Хоцім.

ПУМУРДУВАЦЦА, *дзеясл.* Замучыцца, змардавацца. *Пумурдувалісь мы, пыка выцігнулі калёсы з балота.* Восаў Краснап.

ПУМЯЛО, -а, *н.* Памяло. *У рэшата кароў даіла, пумялом хату міла, як у той песьні пяюць.* Мсціслаў.

ПУМЯНЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Памянціць. *Трэба ўжо касу пумяньціць, прысела.* Маластоўка Краснап.

ПУМЯШЧЭНЬНЯ, -я, *н.* Памяшканне. *Пумяшчэньня толькі ў Пёклы бальшоя, там вічарынку і справім.* Парадзіна Мсцісл.

ПУНЦЫР, -а, *м.* Пузыр, пухір. *Авварыў руку, дык іна уся пунцырамі узьнілась.* Парадзіна Мсцісл.

ПУНЬКА, -і, *ж.* Памянш. ад пуня. *Нада адсадзіць цялёнка у пуньку, ато ужу нядзеля, як ён кыла каровы.* Арцёмаўка Мiласл.

ПУНЯ, -і, *ж.* 1. Хлеў. *Загонь кароў у пуню!* Гарбавічы Касцюк. *У пуні нашых кароў німа — нехта павыгнаў.* Зоры Крыч. [2. Пуня]. *У нас корму німа, пуня с сеным згарела.* Арцёмаўка Міласл.

ПУПАКРЫЦЬ, *дзеясл.* Пакрыць. *Ніхай цябе пупакроя, пупарэжа!* Хвёдараўка Краснап.

ПУПАЛІЦЬ, *дзеясл.* Папаліць, спаліць. *Дроў увосінь столькі нывазіў, а за зіму усі пупалілі бабы.* Гарцуеўка Краснап.

ПУПАРЭЗЫЦЬ, *дзеясл.* Парэзаць. *Я з етыга дубка хацеў шула зьдзелыць, а ён узяў ды пупарэзыў на дровы.* Маляцічы Крыч. *А ніхай цябе жывот пупарэжа!* Хвёдараўка Краснап.

ПУПАРЭЗЬНІЦА, -ы, *ж.* Бабка, павітуха. *Хадора была бабкый-пупарэзьніцай.* Палуж Краснап. *Пайдзі пакліч пупарэзьніцу, жонка нешта кычаіцца.* Негін Касцюк.

ПУПАСКА, -і, *ж.* Папаска, адпачынак і кармленне коней у дарозе. *Тут пад етый бярёзый зыстановімся на пупаску: коні пакормяцца — паедзем дальшы.* Карма-Пайкі Краснап.

ПУПА́СЦА, *дзеясл.* Папасціся, трапіцца. *Папалысь мне тыкая да́чка, што зь яе воз сена ныбраў.* Лешчынка Мсцісл. *Пупаўся я ў піряплеціну.* Хвёдараўка Краснап. *У пасытку пупалыся мышына.* Слаўнае Мсцісл.

ПУПА́СЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Папасвіць, пакарміць. *Трыццыць вярстоў праехылі, добря було б коній пупасывыць.* Палуж Краснап.

ПУПА́СЬЦЬ, *дзеясл.* Папасці, трапіць. *Пупала ў вока касьцюлька зь ячменя. Вірзія ета, вярзець, што пупала.* Хвёдараўка Краснап.

ПУПАЧЫ́РКЫЦЬ, *дзеясл.* Перакрэсліць, закасаваць. *Усё, што ён ныпісаў, яму скызаў учыціль пупачыркыць.* Горня Хоцім.

ПУПІКА́ЦЬ, *дзеясл.* Папіка́ць, папракаць. *Ён мне пупікаіць тым, што мой бацька злодзій.* Слаўнае Мсцісл.

ПУПІКА́НЬНЯ, -я, *н.* Папіканне, дакоры. *Нашто ета пупіканьня, што я тыкая— ты ж ведаў, калі браў.* Пірагова Мсцісл.

ПУПІНЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Выказаць незадавальненне, крыўду. *Пупіняйся ны сымаго сябе, што так выйшла: ты ў етым віныват.* Палуж Краснап.

ПУПІРЯЁЧЫНЫЙ, *прым.* Папсаваны, перапсаваны. *У цібе усі перькі пупяряечыныя, ні пішуць.* Лютня Краснап.

ПУПІРЯЁЧЫЦЬ, *дзеясл.* Папсаваць [перапсаваць]. *Пупіряечыў усі сярнічкі і ні зыпаліў ніводныга.* Хвёдараўка Краснап.

ПУПЛАШЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Пагоршаць. *Хворый пуплашэў, ныўряд ці выжывя.* Палуж Краснап.

ПУПЛЕНЁТКА, -і, *ж.* Суконная хустка. *Зывяжы новую пупленетку. Пупленетка мыя ізнасілась.* Кашаны Крыч.

ПУПО́К, пупка́, *м.* 1. [Ручка], дужка або калочак, прыладжаны пасярэдзіне кася перпендыкулярна да яго, за які пры касьбе трымаюцца праваю рукою. *У маім касьсі пупок скрывіўся, нада пыдцянуць.* Кокатава Мсцісл. *Пысадзі пупок ніжы, дык лаўчэй будзіць касіць.* Бяседавічы Хоцім. *Рыгор, зрабі к свайму касьсю новы пупок.* Бязводзічы Мсцісл. 2. Каўпачок у лямпе. *Пупраў пупок у лампі, ато дрэнна гарыць.* Палуж Краснап.

ПУПРА́ВІЦЦА, *дзеясл.* Паправіцца, ачуняць. *Цётка мыя была хворая, але ўжо пуправілась.* Сутокі Мсцісл.

ПУПРА́ВІЦЬ, *дзеясл.* Паправіць. *Трэба пуправіць крышу, ато йна прыцікая.* Тур'я Краснап. *Пупраў шляю на том кані, ато зьехыла набык.* Бяседавічы Хоцім.

ПУПРАСІ́ЦЬ, *дзеясл.* Папрасіць. *Сірацінка ні пасьмела пупрасіць хлебца.* Ясенка Краснап.

ПУПРІКА́ЦЬ, *дзеясл.* [Папракаць], папікаць. *Нада табе було пупрікаць яго тым, што ён п'яніца, ды прі ўсім народзі.* Слаўнае Мсцісл.

ПУПРЫСЯ́КА, -і, *м.* і *ж.* Проська [той, хто просіць]. *Ета баба пупрысяка; усяго даволі меіць, а ня сьцерпіць, каб не пупрасіць.* Слаўнае Мсцісл.

ПУПРЯДУ́ХА, -і, *ж.* Папрадуха, талака для пражы ільну. *Як была у Гапкі пупрядуха, дык іна во ужу пыкарьміла дзевык, за тоя ж і ныпрялі ёй многа.* Арцёмаўка Міласл.

ПУПРЯ́НЬНІК, -а, *м.* Пернік. *Мне бацька з горыду прівёз дужа смашных пупряньнікыў: як паложыш у рот, дык і рыстаніць.* Слаўнае Мсцісл.

ПУПСУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Папсаваць. *Пупала нешта пыд хамут ці што—конь перьсці пупсуваў.* Баброва Раснян. *Ён хацеў пупсуваць усі мае справы на сходцы.* Слаўнае Мсцісл.

ПУПУГА́Й, -я, *м.* Папугай. *У нашыга пупа быў вучоный пупугай — умеў гываріць «дур-рак».* Краснаполле.

ПУПУЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Папужаць, папалохаць, [напужаць, напалохаць]. *Нада ныскува́ць на іх сыба́к, ніхай яны хуць пупужаюць іх.* Арцёмаўка Міласл.

ПУПІХА́ЦЬ, *дзеясл.* Панесці вялікі цяжар [паперці]. *Гардзей во які мех пупхаў двору.* Палуж Краснап.

ПУПЫДА́ЦЬ, *дзеясл.* Пападаць, трапляць. *Так сьпішаіцца есьць, што аж йіда ў рот ні пупыдаіць.* Слаўнае Мсцісл.

ПУПЫ́ШКА, -і, *ж.* Пупышка. *Цяпло ўжо будзіць—на дрэвах пупышкі лопыюць і лісточкі ўжо пыказывыюцца.* Пацкава Мсцісл.

ПУ́РГА, -і, *ж.* Завіруха, мяцеліца. *На полі тыкая пурга — ні сьвету, ні сьледу ня відна.* Слаўнае Мсцісл. *Сёньня пурга, што на двор выйці нельга.* Бель Мсцісл.

ПУ́РГАЦЬ, *дзеясл.* Сёрбаць, есці. *Дзеці пургаюць крупеню.* Хвёдараўка Краснап.

ПУРУКА́ЦЦА, *дзеясл.* Парукацца, павітацца за руку. *Я пурукаўся з ім.* Хвёдараўка Красп. *Ныстаўнік падышоў ды нас і з усімі пурукаўся.* Белы Камень Бялынкав.

ПУРСЮЧО́К, -чка, *м.* Памянш. ад парсюк. *У пані Бінкіндормы пурсючка купіў ны завод.* Маластоўка Краснап.

ПУСВАРЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Пасварыцца. *Нізнашна, каб браты пусварыліся с сабой.* Палуж Краснап.

ПУСКА́ЦЬ, *дзеясл.* Пускаць, пушчаць. *Падоска твыя ўжо дрэнь, а ты яе ў дзела яшчэ пускаіш.* Бязводзічы Мсцісл.

ПУСЛУГА́Ч, -а, *м.* Паслугач. *Ета панськый пуслугач, ён і січас рад пыдслужыцца.* Зосаў Краснап.

ПУСТАДО́М, -а, *м.* Пусты, бязглузды чалавек. *Бязглузьдзіцу нясець, пустадом нейкій!* Пірагова Мсцісл. *Слухай ты етыга пустадома, дык ён табе ныгаворя.* Каханоўка Клім.

ПУСТАСЬМЁХ, -а, *м.* Пустасмех. *Во пустасьмех ета дзеўка, пыкажы ёй паліц, дык іна зысьмяецца.* Арцёмаўка Міласл.

ПУСТА́ЦЬ, -і, *ж.* Пустаць, занятая [для жніва] частка шнура. *Мы дыжыналі пустаць, дык прыпазьніліся троху.* Мацутаўка Раснян.

ПУСТАЦЬВЁТ, -у, *м.* Пустацвет. *Сёлета нешта гуркоў мала, а ўсё боле пустацьвет.* Пірагова Мсцісл.

ПУ́СТКА, -і, *ж.* Пустка, незасеянае поле. *Чыя ета пустка зырісла пустазельлім, знаць, хыдзяіна нет?* Шумячы.

ПУСТУДОМ, -а, *м.* Пустадом. *Вярзець вірзію, пустудом етый, што нічога ні пынаць.* Барысавічы Клім.

ПУСТУХОЎСКІЙ, *прым.* Пастухоўскі [пастуховы]. *Далі яму дайгую пастухоўскую пугу ў рукі, ён і сцёбыя ёю.* Парадзіна Мсцісл.

ПУСТУШОК, -шка, *м.* Памянш. ад пастух. *Пастушкі ныпалі ны вуціныя гняздо.* Палуж Краснап.

ПУСТЫЙ, *прым.* Пусты. *Гультай — пустому двару хыдзяін.* Сохана Мсцісл.

ПУСТЫНЯ, -і, *ж.* Воўк, звер. *Калі ні наверніцца ны карову пустыня, дык будзе жыва. Ты, як пустыня, гылаву сагнуў — будзь ты весялейшы.* Хвёдараўка Краснап.

ПУСТЫШ, -ы, *ж.* Пусташ [пустка]. *Раньшы тут лес быў, а січас — пустыш, ік спляжылі лес, дык тут нішто ні расьцець.* Шумячы.

ПУСТЭЛЬНІК, -а, *м.* Пустэльнік. *Гэсты ж чылавек жывець, як пустэльнік: ні ён ні к каму ні ходзіць, ні к яму ніхто.* Ушакі Чэрык.

ПУСТЭЛЬНЯ, -і, *ж.* Пустыня. *Ой, страшна ў пустэльні: гэташ нікагутка там німа, толькі пясок і пясок.* Ушакі Чэрык.

ПУСУЛІЦЬ, *дзеясл.* Пасуліць, дакляраваць. *Ён пусуліў мне тры рублі грошай, каб я толькі ета зьдзелыў.* Пірагова Мсцісл.

ПУСЬЦІЛЬГА, -і, *ж.* Пустая жанчына. *Ета ж тыкая пусьцільга — адны стужкі ды хусткі на вуме.* Парадзіна Мсцісл.

ПУСЬЦІЦЦА, *дзеясл.* Пусціцца [пайсці]. *Ладныя баба, ды в абузу пусьцілась.* Добрае Мсцісл. *Піліп, як пачуў, што яму ерошы далі, аж гэндрыка пусьціўся скыкаць.* Маластоўка Краснап.

ПУСЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Пусціць. *Нашто ты цягніш кыта за хвост — пусьці!* Зяціна Мсцісл. *Усечыныя верба пусьціла расткі з корняў.* Парадзіна Мсцісл.

ПУТА, -а, *н.* Пута. *У хвёдырывыга кыня зьнялі пута ны нашлезі.* Бязводзічы Мсцісл.

ПУТАЦЬ, *дзеясл.* 1. Путаць. *Ён свайео кыня на ныч путаіць зялезным путам, баіцца, штоб ні ўкралі.* Касцюшкавічы Крыч. 2. Збіваць, блытаць. *Каб ты міне ні путаў, я б даўно гэстыя грошы палічыла.* Ушакі Чэрык.

ПУТНА, *прысл.* Дарэчы, добра. *Ён заўсягды гаворыць путна.* Сохана Мсцісл.

ПУТНЫЙ, *прым.* Добры. *Я дыйшла ны вічарінку — думыла, там путныя танцы будуць, аж адно мудрываньня.* Слаўнае Мсцісл.

ПУТРА, -ы, *ж.* Кіслая каша. *Выкінь, мамка, гэсту путру вон, яе нельга ўжо есьці.* Ушакі Чэрык.

ПУТУЗАЦЬ, *дзеясл.* Патузаць. *Путузай вожкі — ніхай коні пыдбягуць, ато мы й да вечыря ні даедзім.* Палуж. Краснап.

ПУТУРАЦЬ, *дзеясл.* Патураць. *Нашто ты яму путураіш, глядзі, посьле сам будзіш плакыць ад яго.* Горка Краснап.

ПУТУРБУВАЦЦА, *дзеясл.* Патурбавацца. *Патурбуйся, пыдай мне кніжку.* Кокатава Мсцісл.

ПУТУРЫЦЬ, *дзеясл.* Пагнаць. *Сяргей путурыў коній ны нашлег.* Палуж Краснап.

ПУТУСУВАЦЬ, *дзеясл.* Патасаваць, пакартаваць. *Карты нада хырашо путусуваць, ато ўсё ўремя адна масьць ідзець.* Бяседавічы Хоцім.

ПУХАМЕЛЯ, -і, *м.* і *ж.* Слабасільны чалавек. *Куда табе зь імі цігацца, пухамеля ты!* Горка Краснап.

ПУХЛА, *прысл.* Пульхна. *Булычка пухла сьпіклась, мякінькыя.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПУХНАЧ, -а, *м.* Тоўсты, пульхны, пульхняк. *Пухнач нейкій, жырябёнык етый: на ём шэрсьць стаіць пухым.* Хвёдараўка Краснап.

ПУХОВЫЙ, *прым.* Пуховы. *Твыя падушка мягкыя; уседно што пуховыя.* Вітрунь Касцюк.

ПУХОЎКА, -і, *ж. бат.* Пухоўка, грыбдажджавік. *У етым балоці многа пуховык расьцець.* Хвёдараўка Краснап.

ПУХУВАЦЬ, *дзеясл.* Пахаваць. *Зысмутней хлопіц, як бацьку пухуваў.* Палуж Краснап.

ПУХУДНЯЦЬ, *дзеясл.* Пахуднець, зрабіцца худым. *Жонка біз мяне пухудняла.* Брылёўка Краснап.

ПУЦІК, -а, *м.* Поцек [струменчыкі вады, сцякаючыя па шыбах у дождж]. *Во наліў дождж, дык наліў, аж пуцікі пыцяклі. Як яны пакуль пабедыюць, дык пы стале пуцікі пыцякуць.* Кокатава Мсцісл.

ПУЦУЛУВАЦЬ, *дзеясл.* Пацалаваць. *Хлопіц абшчапіў дзеўку і пуцулуваў.* Палуж Краснап.

ПУЦЦА, -а, *н.* Путца, хамуцік, скураны скрутак, якім злучаюцца цапільна і біч у цэпе. *Пуцца у цэпе разьехылась, нада яго шышыць.* Пухнава Раснян.

ПУЦЬ, -я, *м.* Дабро. *Ні будзіць зь цібе пуці, хлопіц, ні слухаіш ты добрых саветаў.* Ушакі Чэрык.

ПУЦЬЦЁ, -я, *н.* Дабро. *Ніякага зь цібе пуцьця ні будзіць у жызьні — во гэтак і будзіш капціць неба.* Ушакі Чэрык.

ПУЦЭНЬКА, -і, *ж.* Пучок лык, дзесяць лык. *Прынёс пуцэньку лык, буду лапці плесьць.* Хвёдараўка Краснап.

ПУЦЯЧЫЙ, *прым.* Варты, каштоўны, добры. *Калі б конь твой быў пуцячый, я б яго купіў.* Куркаўшчына Мсцісл.

ПУЧОК, пучка, *м.* Пучок. *У гародзі нырвала пучок цыбулі.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПУШАЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад пушка. *Мыя пушачка расчынілась, і ўсё зь яе павывалілась.* Пірагова Мсцісл. *У нашый учыцільніцы, я бачыў, ёсьць тыкая маленькая прыгожанькая пушачка, а ў ёй залатое калечка.* Пірагова Мсцісл.

ПУШКА, -і, *ж.* Пушка, скрыначка для рознай дробязі. *Тата купіў мне пушку на пёркі і кырындаш.* Барысавічы Хоцім. *Аддай маю пушку, нашто ты зыбраў!* Вародзькава Крыч. *Дыстань з пушкі новыя пяро, ато ета ня пішыць.* Пархвенева Калініншчына.

ПУШНО́, -а, *н.* Пухно [пульхняк]. *Ета ні дзіцёнык, а пушно некыя, ручынятқі, як пірівязыныя.* Гарадзец Бабр.

ПУ́ШНЫЙ, *прым.* 1. Пульхны. *Ныпяклі мы новыга хлеба, вышаў такей пушный, смачный.* Юркаўка Крыч. 2. Смачны. *Ты, мабыць, нечыга пушныга пад'еў, калі вары-ва ня хочыш есьць.* Цівецкая Краснап.

ПУШТЭ́НТ, -а, *м.* Камень, якім наці-раюць боты для глянцу. *Як паедзеш у Чэ-рыкаў, купі мне там пуштэнт для ботыў.* Тур'я Чэрык.

ПУШУРУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Пашараваць. *Як ета ты міскі мыеш рукой — іх нада пу-шуруваць вяхоткый.* Палуж Краснап.

ПУШУТКУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Пашутка-ваць, пакпіць. *Якей ты чылавек, с табою й пушуткуваць нільзя — січас абідзіўсь.* Ма-нуйлы Краснап.

ПУ́ШЧА, -ы, *ж.* Пушча, лес. *Сколькі там яшчэ лесу ёсьць! Тыкая пушча стаіць, што ні пралезьць — увыйціць у етый лес, дык цёмна днём.* Арцёмаўка Міласл. *Зай-шлі мы ў самую пушчу, а цёмна! І ня ве-даем, кудыісьці.* Пірагова Мсцісл.

ПУШЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Пушчаць. *Верхняк не пушчаіць прытылак валіцца.* Пухнава Расняп.

ПУ́ШЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад пушка. *Татычка, купі мне пушычку на перкі і кы-рындаш. Я купіў пушычку канхвет.* Кока-тава Мсцісл.

ПЧАЛІ́НА, -ы, *ж.* [Асобная] пчала. *Пчаліна жывёла не вялікая, а пажывы дае многа.* Балакеры Мсцісл.

ПЧАЛІ́НКА, -і, *ж.* Памянш. ад пчалі-на. *Пчалінка з цьвяткоў мёд зьбіраець.* Меншая Багацькаўка Мсцісл. *Малінка сты-яла; ‖ Пчалінка сядзела. ‖ Малінка схілі-лысь, ‖ Пчалінка забілысь.* З нар. песні, М. Г. 74.

ПЧАЛІ́НЫЙ, *прым.* Пчаліны. *Нейдзі пчаліны рой шуміць!* Горкі Краснап.

ПЧАЛЯ́Р, -а, *м.* Пчаляр. *У нашай вёс-цы быў добры пчаляр Янка, да ў мінулым годзе памёр.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ПЧЫЛА́, -ы, *ж.* Пчала. *Ён жа ні рызь-бярэ — што асва, што пчыла.* Старае Сяло Мсцісл. *Мяне пчыла як джыганула, аж я падскочыў.* Парадзіна Мсцісл. *Які з цібе зя-мец, калі пчолы ў цябе ніяк не вядуцца.* Ушакі Чэрык. *Пчолы хлыпца чыста абджы-гылі.* Будагошч Мсцісл. *Яго толькі драж-нюць «зямец», а пчол у яго зроду ні було.* Барысавічы Хоцім. *Макар зямец харошый: пчол у яго быгата.* Касцюковічы.

ПЧЫЛЯ́Р, -а, *м.* Пчаляр. *О, ён добры пчыляр — у яго так добра пчолы вядуцца, а мёду ж колькі!* Ушакі Чэрык.

ПШАНІ́ЦА, -ы, *ж.* Пшаніца. *Конь зай-шоў у пшаніцу і шкоды нырабіў.* Лапаці-на Мсцісл. *Пасеў гоні пшаніцы-яркі, ніхай расьцець.* Белы Камень Бялынкав.

ПШАНІ́ЧНЫЙ, *прым.* Пшанічны. *Ета ж мука пшанічныя, дык і надта белыя.* Мсціслаў. *Ны Украіні дык там аржаногa хлеба німа, а толькі пшанічны.* Буда Рага-тая Міласл.

ПШАНІ́ЧЫНЬКА, -і, *ж.* Памянш. ад пшаніца. *Сёліта наша пшанічынька зыра-дзіла, будзіць пірагоў ны сьвята.* Глупікі Крыч. *А з-пыд гаю, гаю вецір веіць, ‖ Кы-зачынька пшанічыньку сеіць.* З нар. песні, М. Г. 112.

ПШЭ́ННЫЙ, *прым.* Пшонны [пшаніч-ны]. *Пшэнны хлеб, пшэнныя мука, пшэн-ныя поля. Ныварыла матка галычак з мы-лаком, з пшэннай мукі.* Пірагова Мсцісл.

ПЫАБДЗЕ́ЛЫЦЦА, *дзеясл.* Запэцкац-ца. *Чысьціўшы комін, я ўвесь у сажу пы-абдзелыўсь.* Палуж Краснап.

ПЫАБДУРІ́ЦЬ, *дзеясл.* [Абдурыць], ашукаць, абмануць. *Хітрыя дзеўка — усіх хлопцыў пыабдуріла.* Восаў Краснап.

ПЫАБДУ́РЬВЫЦЬ, *дзеясл.* [Паабдур-ваць], паашукваць [ашукаць, абмануць]. *Ні вяжысь с цыганымі — яны вас пыабдурь-выюць.* Крычаў.

ПЫАБІШЧА́НЫЙ, *прым.* Абяцаны, да-клераваны. *Пыабішчаный конь здох, дык ён даў мне другога.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫАБЛА́ЗІЦЬ, *дзеясл.* Пааблазіць, аблезці. *Ну, вось, узьліеш яшчэ вар на ру-кі — пыаблазяць тады.* Ушакі Чэрык.

ПЫАБСІКА́ЦЬ, *дзеясл.* Паабсякаць. *Упярэд нада пыабсікаць суччa, а тады ўжо можна і резыць — лаўчэй будзіць.* Бяседа-вічы Хоцім.

ПЫАБСТРЫГА́ЦЬ, *дзеясл.* [Паабстры-гаць], абстрыгчы. *Сваіх авечык мы пыаб-стрыгалі ўжо.* Барысавічы Клім.

ПЫАДБІРА́ЦЬ, *дзеясл.* Адабраць. *Пы-адбіралі ў нас немцы ўсё чыста.* Хвёдараў-ка Краснап.

ПЫАДДРЕ́ГЫЦЬ, *дзеясл.* Адтрэсці, адбіць. *Ехаць было ны калёсах дрёгка, дык ня толькі ў грудзёх, алі ўсё лантушша ў жывацe пыаддрёгыла.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫАЛЕ́ІНЫЙ, *прым.* Паалеены [за-праўлены алеем]. *Суп посны, троху пыалеі-ный, нічога, укусный.* Залачэўка Краснап.

ПЫАЛЕ́ІЦЬ, *дзеясл.* Паалеіць [запра-віць алеем]. *Хацеў бульбу пыалеіць, ды не-чым — алей увесь спытрябілі.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПЫАППАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* [паапальваць], паапякаць. *З горя ён хацеў азяліцца, хва-ціў быстрыя водкі, дык усё ў році пыаппа-ліў, чуць ні памёр.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫАСО́Б, *прысл.* Асобна. *Пылажы сваю ныпрятку пыасоб, штоб ні ліжала ўмесьці з другімі.* Палуж Краснап.

ПЫАСО́БКУ, *прысл.* Асобна. *Яго хата стаіць ны краю сіла, пыасобку, адна сабе.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫАСО́БНА, *прысл.* Асобна. *Нада ка-ровам даць есьць пыасобна, ато яны па-б'юцца і вывірнуць мякіну.* Арцёмаўка Мі-ласл.

ПЫАТАЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Напасці, апа-наваць [пагрызці]. *Чэрві капусту пыата-чылі, што спасу німа — зьядуць усю чы-ста.* Серчыцы Краснап.

ПЫАТСІКА́ЦЬ, *дзеясл.* Паадсякаць, адсячы. *Што ты там дзелыіш упацёмку? Пальцы сабе пыатсякеш.* Горня Хоцім.

ПЫБА́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Пабачыць. *Ён жа цяпер штодня п'яный, ніколі цьвярозы-га ні пыбачыш.* Парадзіна Мсцісл.

ПЫБРІТА́ЦЦА, *дзеясл.* Падружыцца. *Пьяныя зы чаркай пыбріталіся, а на другі дзень пабілісь.* Парадзіна Мсцісл.

ПЫБЯЛІЦЬ, *дзеясл.* Пабяліць. *Мы сяньні сваю хату пыбялілі.* Арцёмаўка Міласл. *Я ўжо сваё пылатно пыбяліла.* Глупікі Крыч.

ПЫВАГА, -і, *ж.* Павага. *Зы бацьку усюдых яму тыкая пывага, харошый быў чылавек яго бацька, вечны пакой яму.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫВАЖНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Паважнасць, станавітасць. *Куды там! Такая ў яго пыважнысьць стала, што ого! У чыны ўлез.* Добрае Мсцісл.

ПЫВАЛІЦЦА, *дзеясл.* Паваліцца, упасці. *Ішла я па вуліцы, а наперадзе мяне — Ігнат: агляну́ўся ны мяне, пасьлізнуўся ды пываліўся ў гразь.* Зоры Чэрык. *Чэрыз бор сысна пываліліся, ‖ А з кумым кума пысварылыся.* З нар. песні. Залачова Мсцісл.

ПЫВАЛІЦЬ, *дзеясл.* Паваліць. *Нашто ты пываліў мех, хай бы ён стыяў, ато паднімаць цяжка.* Негін Касцюк. *Пываліў ужо сьнег, ды якім вялікім хлопым!* Ушакі Чэрык.

ПЫВАЛОЧЧА, -а, *м.* Дадатак да валокі зямлі. *Сёньня мы паедзім араць на пывалочча.* Тур'я Чэрык.

ПЫВАРОТКА, -і, *ж.* Паварот. *У канцы сіла ёсьць пываротка ў другую вёску, вось па ёй і едзь.* Лешчынка Мсцісл. *Даехыў ды пываротці і ні знаіць, пряма ехыць ці пывярнуць.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫВАРОТЛІВЫЙ, *прым.* Паваротлівы, жвавы. *Якій ты ні пываротлівый, трі шагі табе ступіць, як гылаву далоў.* Канічы Касцюк.

ПЫВАСНУЦЦА, *дзеясл.* Моцна заснуць [уваспацца]. *Дзеці пываснуліся — нічога ня чуюць.* Бардзіч Краснап.

ПЫВІНШУВАНЬНЯ, -я, *н.* Павіншаванне. *Ды паноў на кыляды хадзілі з пывіншуваньням, а за ета пан дывай пойрубля, калі рубель.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПЫВЯДЗЁНКА, -і, *ж.* Звычай, завядзенне. *У мішчан тыкая ўжо пывядзёнка: хоць і хочыцьць есьці, але кажыць — «сыт».* Тур'я Краснап.

ПЫВЯРНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Павярнуць. *Ні знаю, куды ехыць, ці пряма, ці пывярнуць на ету дарогу.* Арцёмаўка Міласл. 2. Перавярнуць. *Пывярні дошку абзоім уніз.* Мсціслаў.

ПЫГАДЖЫНЫЙ, *прым.* Папсаваны. *Пыгаджыныя ў гародзі грядкі — нійначай свіньня ўлезла.* Малюшын Краснап.

ПЫГАДЗІЛЦЬ, *дзеясл.* Папсаваць. *Ня ўмеіш ты прасьці, глядзі, сколькі нітык пыгадзіла.* Пірагова Мсцісл. *Во, аддыла шыць кажушок, дык так пыгадзілі, што й надзець нільга.* Парадзіна Мсцісл.

ПЫГАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Пачакаць. *Пыгадзі-ка, я прайду, быццам міма іду, і гляну, што ён там дзелыіць.* Арцёмаўка Міласл. *Пыгадзі трошку, я зараз вярнуся.* Кокатава Мсцісл. *Нада пыгадзіць, можа яшчэ бацька пад'едзіць, тады ўмесьці будзім вячэріць.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫГАЛІЦЦА, *дзеясл.* Пагаліцца, пакваліцца. *Пыгаліўсь на чужоя добрае.* Пірагова Мсцісл. *Нашоў ны каго пыгаліцца, і была б дзяўчына, ато брыдота адна.* Лешчынка Мсцісл. *Ня бойсь, ні ўкрадуць — хто ны такое дабро пыгаліцца?* Парадзіна Мсцісл.

ПЫГАЛОСКА, -і, *ж.* Пагалоска, чутка. *Пышла пыгалоска, што сына забілі ны вайне.* Бяседавічы Хоцім. *Пыгалоска пыйшла, што Кузьма едзіць двору.* Канічы Касцюк. *Пашлі ўжо пыгалоскі пы дзярэўні, што Зьмітрок ня будзіць з жонкыю жыць.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫГАНА, *прысл.* Пагана, дрэнна. *Сяньні ны дварэ так пыгана, што ня хочыцца з хаты вылізаць.* Сохана Мсцісл. *Я дужа пыгана сябе чую, каб ні зыхварэць.* Лешчынка Мсцісл.

ПЫГАНІЦЬ, *дзеясл.* 1. Паганіць. *Погань етыя толькі дзярэўню пыганіць — выгнаць яе вон адцюль, штоб і духу яе тут ні було.* Гаўрыленка Бялынкаў. *Не пыганьця вы хаты хоць лаянкай сваёй!* Пірагова Мсцісл. 2. Зганіць, зганьбаваць. *Родныя мама прылашчыць, а мачыха ўсягды пыганіць.* Там жа.

ПЫГАНЫЙ, *прым.* Паганы, нядобры, злы. *Пыганый ён чылавек, нікога ні пыжалеіць.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ПЫГАРДНА, *прысл.* Пагардліва. *Ён так пыгардна ны мяне пыглядзеў, усё роўна як я нічога ня стою.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫГАРЭЦЬ, *дзеясл.* Пагарэць. *Стаў галець ён з тых пор, як пыгарэў.* Добрае Мсцісл.

ПЫГЛАДЖЫНЫЙ, *прым.* Папрасаваны. *Надзівай пыгладжыную кохту, ні хадзі ў пумятый.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫГЛАДЗІЦЬ, *дзеясл.* 1. Пагладзіць. *Пыгладзіў сыбаку, а ён узяў ды укусіў мяне за руку.* Канахоўка Клім. 2. Папрасаваць. *Пазычыла ўцюга ды пыгладзіла кохту, хвартук і хустку.* Парадзіна Мсцісл.

ПЫГЛІДАНЬНЯ, -я, *н.* Пагляданне. *Ні надзейся ны яго пыгліданьня: ён ні ўбірягець, і сыбакі схвацюць мяса, луччы сыма глядзі.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫГЛІДАЦЬ, *дзеясл.* Паглядаць. *Глядзі, нешта Васіль ны цябе часта пыглідая — чыкай сватоў.* Вярбоўка Раснян. *Пыглідай тут ны майго кыня, штоб ні зайшоў у шкоду.* Аляксандраўка Краснап.

ПЫГЛУМІЦЬ, *дзеясл.* Паглуміць. *Ні столькі зьесьць, сколькі пыглуміць, патопчыць ныгамі.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПЫГЛЯД, -у, *м.* 1. Погляд, думка. *На мой пыгляд, дык було б луччы раньшы сена згресьць, тады іціць жаць, ато кылі б дождж ні пашоў. На мой пыгляд, дык етый конь ня стоіць такей цаны.* Арцёмаўка Міласл. 2. Выгляд. *На пыгляд — нічога конь, а як ны рабоці яшчэ будзіць?* Там жа.

ПЫГЛЯДЗЕЦЬ, *дзеясл.* Пaглядзець. *Пыглядзіш, што адным махым апынуся ў горыдзі.* Слаўнае Мсцісл. *Мар'я, схадзі на выр, пыглядзі карову!* Паходавічы Чэрык. *Абы я зь ім стрэўсь, а там — пыглядзім.* Куравічы Мсцісл.

ПЫГЛЯНУЦЬ, *дзеясл.* [глянуць], паглядзець. *Пыглянь-ка, якей месік — быццым серп.* Брылёўка Краснап. *Ён, як пыгляніць толькі, ды й то страшна робіцца.* Каханоўка Клім.

ПЫГНАЦЦА, *дзеясл.* Пагнацца, пабегчы наўздагон. *Узяў хлуд ды пыгнаўся за ім.* Хвёдараўка Краснап.

**ПЫГНАЦЬ**, *дзеясл.* Пагнаць. *Сяньні пастух пыгнаў статак пыранкі.* Залесавічы Крыч. *Хлопцы пыгналі коній ныўпірядкі.* Хвёдараўка Краснап.

**ПЫГРАЗІЦЬ**, *дзеясл.* Пагразіць. *Ты яму пыгразі, дык ён улашчыцца, станіць с табою мякчэй і на ўсё сыгласіцца.* Арцёмаўка Мілаcл.

**ПЫГРЫБНЯ**, -і, *ж.* Будан або невялікі будынак над пограбам. *Пыгрыбня у нас сухая, прасторныя, дык мы ўлетку сьпім тама.* Канахоўка Клім. *Лубка ляжыць на пыгрыбне.* Палуж Краснап.

**ПЫГУЛЯЦЬ**, *дзеясл.* Пагуляць. *Зьвесна — лацьвей пыгуляць, чым работаць.* Арцёмаўка Мілаcл.

**ПЫГЫВАРЫЦЬ**, *дзеясл.* Пагаварыць. *Праміж собкыю пыгыварылі пра ета ды годзі.* Палуж Краснап. *Пыгывары ты, Лукаш, зь ім, моіць цябе паслухыя.* Канахоўка Клім.

**ПЫГЫНЯЦЬ**, *дзеясл.* Паганяць. *Хлопіц сплёў бізун пыгыняць кыня.* Слаўнае Мсцісл. *Пыгыняй коні ды глядзі, ато тут ямкі, каб ня вывірнуцца.* Бяседавічы Хоцім.

**ПЫД**, пыда, *прыназ.* Пад. *Скокнуў з вагону ды й пыкаціўся пыд атхон.* Старае Сяло Мсцісл. *Пыд гару везьць воз дужа цяжка.* Лешчынка Мсцісл. *Увесь дзянёчык пыд дажджом, дык прамок ды касьцей.* Палуж Краснап. *Чаму ета хлеб выляецца пыд ныгамі?* Канахоўка Клім. *Ах ты, кладычка, а ты гібкыя, ‖ Ты ня гніся пыда мной.* З нар. песні. Залачова Мсцісл.

**ПЫДАВАЦЬ**, *дзеясл.* Падаваць. *Я палезу на стог, а ты будзіш пыдаваць.* Мануйлы Краснап. *Рана ўстаець, песінкі пяець, ‖ Голыс пыдаець.* З нар. песні, М. Г. 84.

**ПЫДАЗРІЦІЛЬНА**, *прысл.* Падазрона. *Ён глядзіць пыдазріцільна — усё баіцца, каб яму ні зыдалі.* Арцёмаўка Мілаcл.

**ПЫДАЙЦІ**, *дзеясл.* Падыйсці. *Нешта Ігнат табе ківаець — пыдайдзі, паслухай, што ён табе скажыць.* Бабынічы Мсцісл. *Здымі ты века з дзяжы, ато хлеб ні падойдзець.* Ушакі Чэрык.

**ПЫДАІЦЬ**, *дзеясл.* Падаіць. *Маці пыдаіла карову і дыла дзецям мылыка.* Арцёмаўка Мілаcл.

**ПЫДАЛІЙ**, *прысл.* Далей. *Атсунь ты свой клумык пыдалій, я тут свой пыстаўлю.* Буда Рагавая Мілаcл.

**ПЫДАМНУЦЬ**, *дзеясл.* Падмяць, падкомкаць. *Ны яго пычапілыся тры хлапцы, дык усіх пыдамнуў пыд сябе — во дужый.* Хвёдараўка Краснап.

**ПЫДАПЛЁКА**, -і, *ж.* Падаплёка, подбіўка ў сарочцы. *Як будзіш шыць мне сарочку, ні забудзься пыдлажыць пыдаплёку кыла кыўніра.* Слаўнае Мсцісл. *Сарочка з пыдаплёкай у два разы даўжэй носіцца.* Бяседавічы Хоцім.

**ПЫДАРІЦЬ**, *дзеясл.* Падараваць. *Іна зьніла з свайго пальца персьцінь і пыдаріла яго мне.* Бяседавічы Хоцім. *Мне песіньнік пыдарілі, дык у ім шмат інціресных песень.* Арцёмаўка Мілаcл.

**ПЫДАРОЖЖА**, -а, *н.* Падарожжа, дарога. *Пыдарожжа было далёкыя і цяжкыя.* Горка Краснап.

**ПЫДАРОЖНЫЙ**, *прым.* Падарожны. *Пыдарожныя кыла рэчкі акашыліся нычываць.* Нова Ельня Краснап.

**ПЫДАСЕЦЬ**, -і, *ж.* Падасець, яма перад печкай у асеці. *Пырасёнык ўзбег на гумно і ўваліўся ў пыдасець.* Бяседавічы Хоцім. *Лезь у пыдасець і зыпалі дровы.* Хвёдараўка Краснап.

**ПЫДАСЕЦЬЦЯ**, -я, *н.* Падасець. *Зытапі-ка ты пыдасецьця, ды харошымі драўмі, каб жыта ладна высыхла.* Слаўнае Мсцісл.

**ПЫДАСЬПІВАЦЬ**, *дзеясл.* Паспяваць. *Ета нада ўмець так пыдасьпіваць, як ты пыдасьпеў, пряма пыд гарелку — мы толькі што селі выпіваць.* Бяседавічы Хоцім.

**ПЫДАЎЖЭЦЬ**, *дзеясл.* Падаўжэць, стаць больш доўгім. *Маё плацьця дужа каротка, алі яно загнута, прідзіцца атагнуць, дык яно пыдаўжэіць.* Слаўнае Мсцісл.

**ПЫДАЎЛІВЫЦЦА**, *дзеясл.* Давіцца. *Еж, ні пыдаўлівыйся.* Бялынкавічы.

**ПЫДАЦЦА**, *дзеясл.* 1. Здацца, паказацца. *Пыдалося мне, што тама нехта йдзе.* Хвёдараўка Краснап. 2. Пайсці, накіравацца. *Узяў кій у руку і пыдаўся нейдзе ў бок Магілёва.* Мацутаўка Раснян. *Нейкій чылавек пыстыяў на лузе і пыдаўся ў лес.* Сапрынавічы Мсцісл. 3. Падацца. *Ён яму ні пыдаўсь.* Палуж Краснап.

**ПЫДАЦЬ**, *дзеясл.* Падаць. *Пыдай цадзілку, нада прыцадзіць квас, ато зычарпнуў с кускамі хлеба.* Бяседавічы Хоцім. *Пыдай мне вады напіцца.* Гусарка Клім.

**ПЫДБАРОДЫВІЧ**, -а, *м.* Падбародавіч. *Эйш, якей тоўстэй пыдбародывіч зыгыдуваў!* Хвёдараўка Краснап.

**ПЫДБІВАЦЬ**, *дзеясл.* Падбіваць, падцкоўваць. *Яго ні нада пыдбіваць біцца, ён і так рад пабіцца, с кім случыцца.* Арцёмаўка Мілаcл. *Ён стаў пыдбіваць іх: то аднаму кіўнець ны другога, то таго таўкнець на першыга — хацей, штоб яны пабілісь.* Арцёмаўка Мілаcл.

**ПЫДБУЎЛЯЦЬ**, *дзеясл.* Падбаўляць. *Пыдбуўляй яшчэ вады, ато густ будзіць, ні замесіш.* Касперка Мілаcл.

**ПЫДБЫДРЯЦЬ**, *дзеясл.* Асмельваць, падбадзёрваць. *Хоць і пыдбыдрялі його, а ткі ні 'смеліўсь пабаріцца з Гаўрілам.* Палуж Краснап.

**ПЫДВАРОТНІЦА**, -ы, *ж.* Падваротня. *Зыкладзі пыдваротніцу, каб сьвіньні ня лезьлі.* Хвёдараўка Краснап. *Пыдваротніца ні была зыкладзена, і ён выскачыў пыд вароты.* Бяседавічы Хоцім.

**ПЫДВУЧЫЦЬ**, *дзеясл.* Падвучыць, падбіць, падцкаваць. *Нада яго пыдвучыць, штоб ён у вочы ёй скызаў ета.* Арцёмаўка Мілаcл.

**ПЫДВЯЗЫВЫЦЬ**, *дзеясл.* Падвязваць. *Пыдвязывый лапыць хутчэй ды пайдзём, ато ні пасьпеім.* Канахоўка Клім. *Пыдвяжы вышы чапёлкі, ато ніты апусьціліс.* Хвёдараўка Краснап.

**ПЫДВЯЗЬЦІ** [падвезьць], *дзеясл.* Падвезці. *Пыдвязі мяне, браток, да Мсьціслаўля!* Куравічы Мсцісл. *Конікі мае сівыя ‖ Ці спадзеіцісь на сілу ‖ Ці пыдвязіцё княгіню?* З нар. песні, М. Г. 19.

ПЫДВЯРНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Падкіраваць. *Кучыр пыдвярнуў кыня к ганкым.* Тур'я Крыч.

ПЫДВЯСЬЦІ [падве́сьць], *дзеясл.* 1. Падвесці, падцягнуць. *Пыдвяло брюха жарёбцы.* Хвёдараўка Краснап. 2. Ашукаць [не выканаць абяцання]. *Ні верь етыму прійдзісьвету — пыдвядзець.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПЫДГА́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Падгадзіць. *Етый падлёпуш яшчэ пыдгадзіў.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫДГАТО́Ў, -ву, *м.* Падрыхтоўка. *Бацька ладзіць калёсы, вупряж — пыдгатоў ды пахыты.* Касперка Міласл.

ПЫДГАТО́ЎКА, -і, *ж.* Падрыхтоўка. *У клубі йдзець пыдгатоўка ціятру.* Крычаў.

ПЫДГІ́БАЦЦА, *дзеясл.* Падгінацца. *Ногі мае пыдгібаюцца — іціць ні магу.* Мануйлы Краснап.

ПЫДГІНА́ЦЦА, *дзеясл.* Падгінацца. *Ня мусю іціць — пыдгінаюцца ногі.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫДГЛІДА́НЬНЯ, -я, *н.* Падглядванне. *Ныдаела мне ета пыдгліданьня: куды ні ідзеш, усё вычамі прывыжаіць, ці ў другую хату выйдзіш — січас у шчэлку пыдглідаіць!* Арцёмаўка Міласл.

ПЫДГЛІДА́ЦЬ, *дзеясл.* Падглядаць. *Як табе ні стыдна пыдглідаць пад вокнымі, кылі табе чаго трэба — ідзі ў хату, а ні пыдглідай спыдцішка.* Касперка Міласл.

ПАДГЛІДА́Ч, -а, *м.* Чалавек, што падглядвае, пільнуе, шпіёніць. *Падумаеш, пыдглідач знайшоўся! Ты зы сабой перве прыгледзь!* Пірагова Мсцісл.

ПЫДГЛЯДЗЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Падгледзець. *Нада пыдглядзець калі-небудзь, куды йта ён ходзіць так позна.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫДГЫНЯ́ТЫЙ, -ага, *м.* Падганяты, той, што падганяе. *Эйш, пыдгынятый знайшоўся — скарэй ды скарэй, і біс цябе ўправімся.* Палуж Краснап.

ПЫДДА́НКА, -і, *ж.* Падданая, паднявольная. *Што ты кумандыіш мною? Я ні твыя пыдданка.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПЫДДУ́РЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Ашукваць, абманваць. *Паддурывыў, паддурывыў ён цябе, пакуль ні пыддурыў.* Краснаполле.

ПЫДДУРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Ашукаць, абмануць, пакінуць у дурнях. *Пыддурыў дзеўку, а цяпер сьмяецца.* Глупікі Крыч.

ПЫДЖАНІ́ШНІК, -а, *м.* Паджанішнік, дружка жаніха. *Збоку мыладога сядзеў пыджанішнік.* Сохана Мсцісл. *Ну, згулялі Міколаву свадзьбу, я быў у яго зы пыджанішніка.* Пірагова Мсцісл.

ПЫДЗІВА́ЦЦА, *дзеясл.* Падзецца [знікнуць з-пад рук, вачэй]. *Куды ета пыдзівалысь кольля з-пыд страхі, ці ж ета хто пыбраў?* Касперка Міласл.

ПЫДЗІРЬЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Патрымаць. *Дай мне дзіцёнка пыдзірьжаць, а сыма схадзі двору, прінясі пакрыўку абвінуць яго.* Бардзіч Краснап.

ПЫДЗІРЬКУВАНЫЙ, *прым.* Падраны на дзіркі [з дзіркамі]. *Пыдзірькуваныя накрійка: ёю ні захінуць дзіцяці — то рука, то ныга вылазіць наверьх.* Маластоўка Краснап.

ПЫДЗІРЯ́ЎЛЕНЫЙ, *прым.* Дзіравы. *Нейкыя рэшыта дыла мне ўсё пыдзіряўленыя, ажно асеўкі прысіваюцца.* Пірагова Мсцісл.

ПЫДЗІШАВЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Патаннець, зрабіцца больш танным. *Хлеб троху пыдзішавеў супроць летышніга.* Мсціслаў.

ПЫДЗЯЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Падзяліцца. *Ён з свае часьці, як пыдзялілісь, яшчэ частку даў зяцю. Былазе ўмесьці жывём, ні пыдзялілісь, ато як бы ён сам хызяіным быў, дык ба ніколі хлеба на гыд ні хыпала.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫД'ІДА́ЦЬ, *дзеясл.* Пад'ядаць, наядацца. *Уранні нада хыроша пыд'ідаць, ато абедыць скора захочыцца.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫДКА́ЗЫВАЦЬ, *дзеясл.* Падказваць. *Што ты мне пыдказывеш, я і сам добра ведаю.* Пірагова Мсцісл.

ПЫДКА́ТЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Падкочвацца. *Во дзеўка, і ды жынатыга пыдкатывыіцца.* Залачэўка Краснап.

ПЫДКАЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Падкаціцца. *Двацыць капеік пыд лаўку пыдкацілысь і ні дыстаць.* Глупікі Крыч. *Выціряшка тая у аднэй мыладухі мужыка адбіла, а як той кінуў, дык іна к другому пыдкацілысь.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫДКІДА́ЦЬ, *дзеясл.* Падкідаць. *Ета сена ні нада ні пыдкідаць, ні шывяліць, яно суха і так гресьць можна.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫДКЛА́ДКА, -і, *ж.* Падкладка. *Нада пыдкладкі пылажыць пыд бярвеньні, ато так будуць гніць.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫДКЛА́ДЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Падкладваць. *Што ты мне пыдкладывыіш, я й етыга ні зьем!* Новае Сяло Мсцісл. *Гаріда ты, што ты мне сьвіню пыдкладывыіш!* Слаўнае Мсцісл.

ПЫДКРА́СІЦЬ, *дзеясл.* Падфарбаваць. *Нада ету гарелку чарніцымі пыдкрасіць, дык іна станіць красьнінькыя, і піць луччы будзіць.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫДКЫСА́ЦЬ, *дзеясл.* Падагнуць, падаткнуць. *Нада пыдкысаць хуць з бакоў спадніцу, ато вісіць ды пят.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫДЛА́ВІЧЧА, -а, *н.* Месца пад лавай, падлаўе. *Тапор ляжыць пыдлавіччым.* Палуж Краснап.

ПЫДЛА́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Падладзіцца, прыстасавацца. *Табе трэба к яму пыдладзіцца.* Палуж Краснап.

ПЫДЛАЖЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Падлажыць, падкласці. *Пыдлажы троху шчэпычык, нехай хлеб зыпікаіцца — штоб скарынка румяныя была.* Шчыпаў Раснян. *Пыдлажы на ныкалісьніцу палку, ато раздужжа зломіцца.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫДЛА́ЗА, -ы, *ж.* Падлаза, падхалім. *Ён такей пыдлаза — к кожныму падлезіць з салодзенькімі слывамі.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫДЛА́ЗЬЗЯ, -я, *н.* Праход у падасець. *Малыя пыдлазьзя ў тваёй асеці.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫДЛАКО́ТНІК, -а, *м.* Падаконнік. *Пыдлакотнікі дрэнна зроблены, дык і вокны ні так выглідаюць.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫДЛА́СКА, -і, *ж. заал.* Ласка. *Знаць, карову пыдласка укусіла — раздулась, як гара, і здохла. Пыдласка іна ма-*

*лінькыя, тонінькыя, іна і ў мышыную норку пралезіць, ня то што.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫДЛАУЧЫЦЦА, *дзеясл.* Падлаўчыцца. *Жулік нейкі подлаўчыўся ды й сьцягнуў у бабы воўну з воза.* Клясін Краснап.

ПЫДЛІЗЬНІК, -а, *м.* Падліза, падхалім. *Зьвесный пыдлізьнік: ён табе будзіць салодзінькім гыласком пудпіваць.* Маластоўка Краснап.

ПЫДМАЗЫЦЦА, *дзеясл.* Падладзіцца, увайсці ў давер'е. *Трудна к яму толькі пыдмазыцца, а тады ўсё у яго можна ўзяць.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫДМАНІВЫЦЬ, *дзеясл.* Падманваць. *Круцель ты, ні пыдманівый — ніхто ні паверыць.* Слаўнае Мсцісл. *На што ты мяне пыдманівыеш?* Краснаполле.

ПЫДМАНІЦЬ, *дзеясл.* Падмануць, ашукаць. *Пыдманіў ён нас: скызаў, што тут шмат грыбоў ёсьць, а тут кызьліка і таго німа.* Зарэчча Мсціcл.

ПЫДМАННА, *прысл.* Абманам, ашуканствам. *Пыдманна ўзяў зь мяне грошы.* Маластоўка Краснап.

ПЫДМАНУЦЬ, *дзеясл.* Падмануць. *Еткій ошуст каго ні пыдманець.* Стары Дзедзін Міласл.

ПЫДМАСЬЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Падмасліваць, запраўляць маслам ці тлушчам. *Дос табе пыдмасьлівыць ету кашу, і так ужу сала зь яе капыіць!* Бяседавічы Хоцім.

ПЫДМАЦУВАЦЬ, *дзеясл.* Падмацаваць. *Нада пыдмацуваць абручы ны кадушкі, ато пацеч моіць.* Залачова Мсціcл.

ПЫДМІТАЙЛА, -а, *м.* Падмятайла, чалавек, што займае невялікую пасаду, на пабягушках. *Тваё дзела малінькыя, ты там пыдмітайлый служыш.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫДМІТАЦЬ, *дзеясл.* Падмятаць. *Пыдажджы пыдмітаць — я йшчэ буду стругаць, дык ізноў нысьмячу табе.* Кокатава Мсціcл.

ПЫДМЫГАЦЬ, *дзеясл.* Дапамагаць. *Прышлі пыдмыгаць мне, пымыгальнічкі маі.* Клясін Краснап.

ПЫДНІМАЦЦА, *дзеясл.* Паднімацца, усходзіць угору. *Редкі пріступкі на лесьвіцы, дык цяжка пыднімацца уверьх.* Слаўнае Мсціcл. *Сена зьлежылась у трысьцені, дык яго хырашо брацъ — пластом так і пыднімаіцца на вілы.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫДНЯБЕНЬНЯ, -я, *н.* Паднябенне. *Хлібнула я гырячыга чаю, дык у році ўсё пыднябеньня і язык узьняліся.* Слаўнае Мсціcл.

ПЫДНЯВЕСЬНІЦА, -ы, *ж.* Паднявесніца, дружка маладой. *Зы сталом ны свадзьбі з боку мыладыя сядзела пыднявесьніца.* Сохана Мсціcл. *Пыджанішнік з пыднявесьніцай дзіржалі ў церкві вянцы ныд галовамі жыніха і нявесты.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫДНЯЦЦА, *дзеясл.* Падняцца, усхадзіцца. *Пыдняўся вецір і пыварочаў шурамбурам усі нашы копы.* Ушакі Чэрык. *Якей зялёный паросьцень пыдняўся.* Палуж Краснап. *Кабыла дужа хварэла, алі-ткі пыднілась на ногі.* Палуж Краснап.

ПЫДНЯЦЬ, *дзеясл.* 1. Падняць. *Зымурдуваўся я, мылацііўшы, рук ні магу пыднять.* Слаўнае Мсціcл. *Воз піракуліўсь, дык адзін ледзь пыдняў.* Касцюшкавічы Крыч. 2. Узняць. *Бабы пыднялі вый, што хоць з хаты уцікай.* Палуж Краснап. *Ны бызарі такей верхыт пыднялі, што аж гылаву адурілі.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫДПАВЕЦЬЦЯ, -я, *н.* Паветка. *У пыдпавецьці стыяць сані.* Бяседавічы Хоцім. *Зывязі калёсы у пыдпавецьця.* Кокатава Мсціcл.

ПЫДПАЛІЦЬ, *дзеясл.* Падпаліць. *Кажуць, што ета Кузьма пыдпаліў рыгорава гумно.* Канічы Касцюк.

ПЫДПАЛЬШЧЫК, -а, *м.* Падпальшчык. *Як гарела яшчэ гумно, дык прібег пыдпальшчык і сам прызнаўся, што ета яго работа.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫДПАСЬЦІ, *дзеясл.* Прыпасці. *Пыдпала мне дарога у Мугулёў ехыць.* Палуж Краснап.

ПЫДПАШКІ, *прысл.* Падпашкі. *Узялі яе з двух бакоў пыдпашкі й пывялі.* Арцёмаўка Міласл. *Пыдпашкі вядуць, а ён каржыцца.* Палуж Краснап.

ПЫДПІРІЗАЦЬ, *дзеясл.* Падперазаць. *Пыдпірізаў дзявоцкі поіс і носіць.* Буда Рагатая Міласл.

ПЫДПІРЫЗАЦЦА, *дзеясл.* Падперазацца. *Дай мне крайку пыдпірызацца.* Барысавічы Клім.

ПЫДПІРЯЗКА, -і, *ж.* Падпяразка, пояс. *Дай мне якую-небудзь пыдпірязку пыдвізаць спадніцу.* Слаўнае Мсціcл. *Німа ніякый пыдпірязкі, хаджу біспыясы.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫДПІРЯЗЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Падпяразвацца. *Я зьдзелыла крайку з чырвонымі кісьцямі, буду пыдпірязывыцца ў сьвята.* Слаўнае Мсціcл.

ПЫДПІРЯЗЫНЫЙ, *прым.* Падпяразаны. *Прыбраўсь: чорныя штаны, сінія рубаха і жоўтым ремнім пыдпірязыный.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫДПЫДАЦЬ, *дзеясл.* Падпадаць. *Я ні хачу пыдпыдаць пыд яго апеку, сам якнібудзь выкручуся.* Слаўнае Мсціcл.

ПЫДПЫСЬЛЯ, *прысл.* У канцы, перад самым канцом. *Аграном прышоў на сход пыдпысьля.* Палуж Краснап.

ПЫДПЫЯС, -у, *м.* Падпяразка. *Ніякыга пыдпыясу німа, нечым пудпірызацца.* Палуж Краснап.

ПЫДПЫЯСЫК, -ска, *м.* Падпяразка. *А йдзе ж твой, хлопча, пыдпыясык, што ты ходзіш біспыясый?* Палуж Краснап.

ПЫДРАСЬЦІ [падрэ́сьцъ], *дзеясл.* Падрасці, вырасці. *Сынок як пыдрасьцець, будзе маім хлебнікым.* Палуж Краснап.

ПЫДРІДЖАЦЦА, *дзеясл.* Падраджацца, брацъ на сябе абавязак. *Ні нада было пыдріджацца, кылі ні можыш споўніць.* Восаў Краснап.

ПЫДРУБАЦЬ, *дзеясл.* Падсекчы. *Пыдрубаў ёлку, іна й пувалілысь ны яго, чуць ні зыдавіла.* Клясін Краснап.

ПЫДРУЙНАНЬНЯ, -я, *н.* Падраўнанне. *Ідзе тваё пыдруйнаньня? Усё роўна кріва, і той край досткі, што ты резыў, яшчэ длынныватый.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫДРЯ́ДЧЫК, -а, *м.* Падрадчык. *Пыдрядчык зыгыдаў, каб найзноў усё пірядзелылі.* Палуж Краснап.

ПЫДСА́НКІ, -нак, *мн. л.* Падсанкі, малыя санкі, што падстаўляюць пад канец берваня, везучы яго на санях. *Атвырачывай кыня туды далі, ато пыдсанкамі зачэпіш за пень.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫДСІКА́ЦЬ, *дзеясл.* Падсякаць. *Мы пычалі пыдсікаць дрэва з абодвых бакоў.* Пірагова Мсціcл. *Пыдсікай з таго боку, ато пілу зашчыміла.* Глупікі Крыч.

ПЫДСКАКНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Падскочыць. *Табе так ні пыдскакнуць, як ён пыдскакывыіць — на цэлый сажынь ад зямлі.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫДСЛУ́ХАЦЬ, *дзеясл.* Падслухаць. *Цішыця вы! Я хачу пыдслухаць, што яны там гаворуць.* Пірагова Мсціcл.

ПЫДСМА́ЖЫНЫЙ, *прым.* Падсмажаны. *Пыдсмажыныя ў масьлі гусь дужа смашна бываіць.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫДСЫБЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Дапамагаць. *Пыдсыбляў Лукашу мех пыдняць, дык нешта ў сярэдзіну як зыкалола, так і цяпер ні пірістаець.* Юшкі Мсціcл.

ПЫДСЬЦЯРЕ́ГЧЫ, *дзеясл.* Падсцерагчы, падпільнаваць. *Нада пыдсьцярегчы, кагда будзіць ісьці двору ат Мыланкі, і добра атлупіць.* Клясін Краснап.

ПЫДТА́ПЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Падпальваць дровы. *Нарві ад бярёзывый палкі там бярёсты, ёю хырашо печку пыдтаплівыць, лучшы лучыны гарыць.* Арцёмаўка Мсціcл.

ПЫДТАЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Падтачыць. *Чырвяк пыдтачыў грушу, дык іна і ўпала.* Самацевічы Касцюк.

ПЫДУВА́ЛЬНІЦА, -ы, *ж.* Вілы з усечаным рогам, якімі падаюць снапы на асець. *Паціху ты там швыряй снапы, ато пыдувальніцу зломіш.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫДХВАЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Падхапіцца, ускочыць. *Ён сонный пыдхваціўся і нешта закрычэў.* Палуж Краснап.

ПЫДЦЯГНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Падцягнуць. *Хлюндра ты, пыдцягні спадніцу, ато ўвесь падол зымачыла.* Слаўнае Мсціcл.

ПЫДЦЯ́ГЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Падцягваць. *Вінт ні пыдцягыіць.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫДЦЯ́МІЦЬ, *дзеясл.* Падгледзець, дапільнаваць. *Хацеў пыдцяміць, куды ета ён ходзіць увечырі.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫДЧАРЕ́ВЫК, -ўка, *м.* Падчаровак, сала ў кабана на чэраве. *Спычатку пыдчарёвык вырізай, а тады кішкі дыстаніш.* Хвёдараўка Краснап. *Ны сьпіне сала — у чэцьвірць, а ны пыдчароўку — пальцы ны два.* Парадзіна Мсціcл.

ПЫДШЧАМІ́ЦЬ, *дзеясл.* Падтуліць. *Сыбака пыдшчаміў хвост, увідзіўшы чорнага сыбаку, а як прышоў хызяін, дык ён асьмеліўся.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫДШЫВА́ЛЬНІК, -а, *м.* Падшывалец, жэўжык. *Бачыў ты еткыга пыдшывальніка, што ён вырыбляць, ой глядзі, хлопча, штоб табе часым ні пупала.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫДЫБАЦЦА, *дзеясл.* Падабацца. *Ці пыдыбаіцца табе вун тая дзеўка?* Слаўнае Мсціcл.

ПЫДЫВА́ЛЬНІЦА, -ы, *ж.* Вілы з урэзаным рогам, якімі падаюць снапы. *Засіліў зыраз два снапы, дык пыдывальніца зламалысь.* Канахоўка Клім. *Дзе ты падзеў пыдывальніцу?* Хвёдараўка Краснап.

ПЫДЫВА́НЬНЯ, -я, *н.* Падаванне. *На пыдываньня снапоў ні стынавісь — у цябе сілы ні станіць, ніхай пыдаюць мушчыны.* Аляксандраўка Краснап.

ПЫДЫВАЦЦА, *дзеясл.* 1. Паддавацца. *Ні пыдывайся ты яму, ці ж ты яго ні зможаш?* Ганнаўка Клім. 2. Накіроўвацца. *Мы з Масквы пыдаёмся далей.* Палуж Краснап. *Арцём пыдайся нейдзі ды дзіўчат.* Кокатава Мсціcл.

ПЫДЫЖДА́НКА, -і, *ж.* Пачаканка. *Абіцанка з пыдыжданкый — сёстрі ніразлучныя.* Лютня Краснап.

ПЫДЫЖДА́ЦЬ, *дзеясл.* Пачакаць. *Сымон прасіў, штоб яго пыдыждалі, дык умесьці пойдзім.* Баеўка Крыч. *Пыдаждджы, пойдзім разым!* Кокатава Мсціcл.

ПЫДЫЗВА́ЛЬЛЯ, *прысл.* Уніз. *Пыкаціўся пыдызвальля, як гылаву сабе ні скруціў.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫДЫЙЦІ́, *дзеясл.* Падыйсці, падняцца ад дражджэй. *Хлеб пыдыйшоў, і надзежнік утапіўсь у цеста.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫДЫМА́ЦЦА, *дзеясл.* Падымацца. *Гусі, як ліцяць, дык вышы пыдымаюцца, чым вуткі.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫДЫМА́ЦЬ, *дзеясл.* Паднімаць. *Пыдымай вышы сыян, ато ўсю подбіўку абдзелыіш у гразь.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫДЫРАЖЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Падаражэць, стаць больш дарагім. *Пыдыражэла цяпер тыбака, хуць кінь курыць. Пыдыражэў красін нешта, хуць ты сядзі вечырым упацёмку.* Лешчынка Мсціcл.

ПЫДЫРВАЦЦА, *дзеясл.* Падарвацца. *Ні падымай адзін етыга міха, ато пыдырвацца можна.* Залесавічы Крыч.

ПЫДЫСЛА́ЦЬ, *дзеясл.* Падаслаць, пасцяліць. *Каровы стыяць у гразі, нада саломы пыдыслаць, штоб сушэй було.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫДЫСПО́ДЫМ, *прысл.* Падысподам. *Пыдысподым у сундуку ліжаць кралі — дыстань ды надзень, толькі зьверьху адзежы ні павыкінь.* Слаўнае Мсціcл.

ПЫД'ЯВІ́ЦЦА, *дзеясл.* З'явіцца. *Аткуль ета ты пыд'явіўся з налопу?* Кокатава Мсціcл. *Аткуль ета ты пыд'явіўся сюды і чаго ты пришоў?* Арцёмаўка Міласл.

ПЫД'ЯУЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* [Нечакана з'яўляцца], падходзіць раптам. *Пыд'йўляіцца нейкій хлюст і дувай нас пудгуварывыць.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫЖ, -а, *м.* Малеча, карапуз. *Пыж ты яшчэ, а лезіш да большыга зы сябе.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫЖАЛЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Пашкадаваць. *Як матка ні сярдуіць ны дзяцей, а удобрыцца і пыжалеіць.* Сохана Мсціcл.

ПЫЖА́ЛІЦЦА, *дзеясл.* Паскардзіцца. *Адзін хлопчык пыжаліўсь ныстаўніку на другога.* Пірагова Мсціcл. *Зыбіжаюць, а як маткі німа — каму пыжалісься?* Парадзіна Мсціcл.

ПЫЖАНІЦЦА, *дзеясл.* Пажаніцца. *Браты пыжаніліся, алі жылі разым, ны агульным хызяйстві.* Старае Сяло Мсцісл.

ПЫЖАРЬНІК, -а, *м.* 1. Пажарнік. *Пыжарьнікі ўраз путушылі пыжар, пріехыўшы з машыныю.* Клімавічы. 2. *бат.* Пажарніца. *Каровы добря ядуць пыжарьнік.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫЖАРЫШЧА, -а, *н.* Пажарышча, месца, што застаецца ад згарэлай будыніны. *Дзеці кыпаюцца на пыжарышчы, цьвікі гарелыя выцягывыюць.* Глупікі Крыч.

ПЫЖАЦЬ, *дзеясл.* Пажаць. *Усё жыта пыжалі і ў копы пысклалі.* Меншая Багацькаўка Мсцісл. *Пажні, дачухна, авясец, ‖ Тады к табе бог сватоў прінясець. ‖ — А я авясец пыжала, ‖ Сватоў у вочы ні відала.* З нар. песні, М. Г. 108.

ПЫЖЫВІЦЦА, *дзеясл.* Пажывіцца, з'есці што-небудзь. *Дос работыць, трэба нямнога пыжывіцца.* Канічы Касцюк. *Аткуль у яго і ўважлівасьць тыкая стала, як увідзіў, што тут можна пыжывіцца.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫЖЫГНАЦЦА, *дзеясл.* Перахрісціцца. *Пыжыгнацца ня ўмеіць, а лаіцца наўчыўсь.* Гарцуеўка Краснап.

ПЫЖЫК, -а, *м.* Хлопчык, які слаба расце, малы. *Пыжык етый ня ўседзіць на дным месьці. Сядзіць пыжыкым — ні расьцець.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫЖЫЛАНКА, -і, *ж.* Пажаданне. *Пыжыланка пыжыланкый і зыстанецца, калі за дзела ні вызьмецца.* Клясін Краснап.

ПЫЖЫЛАНЫЙ, *прым.* Пажаданы. *Зыяздждай часьцей! Будзеш пыжыланый госьць!* Пірагова Мсцісл.

ПЫ-ЗА, *прыназ.* За, па-за. *Пы-за гумнымі сыбакі нечыга выюць, ці ня воўк, часым, падыйшоў.* Зяціна Мсцісл. *Пы-за лесым, пы-за цёмным ‖ Устала чорна хмара.* З нар. песні. Пірагова Мсцісл.

ПЫЗАБЫЦЬ, *дзеясл.* Забыцца. *Хацела ныпісаць пісьмо, ды адрас пызабыла.* Пірагова Мсцісл.

ПЫЗАВІДНІЧЫЦЬ, *дзеясл.* Пазавідаваць [пазайздросціць]. *Пызавіднічыў на чужоя дабро, як быццым свайго мала.* Глупікі Крыч. *Пызавіднічыла ны яго быгацьця — пышла зы старога.* Пірагова Мсцісл.

ПЫЗАВІДЫЦЬ, *дзеясл.* Пазайздросціць. *Пызавідыў Пынасу, што ў яго ўсяго ёсьць, ні завідый на чужоя.* Аляксандраўка Краснап.

ПЫЗАДЗЕЛЫЦЦА, *дзеясл.* Запэцкацца. *Ах ты, хацкаль, пызадзелыўся ўвесь.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫЗАДЗІРАЦЬ, *дзеясл.* Задраць [пазадзіраць]. *Як ныпаў сёньні ны кароў гіж— пызадзіралі яны хвасты ды як пойдуць у лес, толькі іх бачылі.* Ушакі Чэрык.

ПЫЗАЙЗДРОСЬЦІЦЦА, *дзеясл.* Пазайздросціцца. *Пызайздросьцілась, ныбрала грібоў, што двору ні дынясу.* Цівецкая Краснап.

ПЫЗАЙСТРЫЦЬ, *дзеясл.* Пазавострываць. *Пызайстрыў я ўсі колікі.* Палуж Краснап.

ПЫЗАЙЦІ, *дзеясл.* Зайсці. *Сонца пызайшло. Дзеці пызайшлі ў гарод. Дзеўкі пызайшлі замуж.* Палуж Краснап.

ПЫЗАКЛЕІВЫЦЬ, *дзеясл.* Пазаклейваць. *Пызаклеівый ты сваe былячкі пляйсьціры, можа скарей зажывуць.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫЗАПЛУТАЦЬ, *дзеясл.* Заблытаць. *Кыціняты пызаплуталі мне ўсі ніткі.* Пірагова Мсцісл.

ПЫЗАПЛУТЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Пазаблытваць. *Пызаплутывыла ніткі, і ніяк ні рызьбярусь, што ды чаго.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПЫЗАСОХНУЦЬ, *дзеясл.* Засохнуць. *Пызасохлі заперы ў кыбанчыка.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫЗАЧЫРКАЦЬ, *дзеясл.* Пазакрэсліваць. *Пызачыркыў-пызачыркыў мне ўсё, што я напісаў.* Пірагова Мсцісл.

ПЫЗВАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Прынадзіць, прываражыць. *Усіх хлапцоў дзеўка пызвадзіла, тыбуном за ёй ходзюць, як жырябцы.* Палуж Краснап. *Ета ня хлопіц, а празмуста, усіх дзевык пызвадзіў.* Маластоўка Краснап.

ПЫЗДАРОВІЦЦА, *дзеясл.* Паздаровіцца. *Ат такога зьмілываньня — пыдальшы, ато ні пыздаровіцца.* Гарадок Расням.

ПЫЗДАРОЎКЫЦЦА, *дзеясл.* Прывітацца. *Сустрэла яе, пыздароўкылась і пытаецца: як у цябе ў хаце, ці здаровы дзеткі, як гадуюцца?* Парадзіна Мсцісл.

ПЫЗДРАЎЛЕНЬНЯ, -я, *н.* Павіншаванне [віншаванне]. *Мне пріслалі пыздраўлењня ў пісьме з Новым годам.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫЗДЫРЯВЕЦЬ, *дзеясл.* Паздаравець. *Як твой чылавек, пыздырявеў ці ўсё такей жа? Пыздырявеў троху, але не саўсім: от цігаіцца так-сяк.* Пірагова Мсцісл.

ПЫЗІРАЦЬ, *дзеясл.* Пазіраць, паглядаць. *Пуўлючок пызіраў, як зьвярёнык.* Палуж Краснап.

ПЫЗНАЙМЫЦЦА, *дзеясл.* Пазнаёміцца. *Ён з маёй дачкой пызнаймыўся.* Б. Хутары Краснап.

ПЫЗНАКОМКВЫЦЦА, *дзеясл.* Пазнаёміцца. *Пызнакомкваліс мы летась на Міколу на кірмашы.* Пірагова Мсцісл.

ПЫЗНАЦЬ, *дзеясл.* Пазнаць. *Чую, як бы знаёмы голас, а пызнаць ні магу.* Усполле Расням. *Глянь яму ў ліцо, можа пызнаіш.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫЗНЫВАЦЬ, *дзеясл.* Пазнаваць. *Етый старіц нівідушчый і ходзіць з пывадырём, а людзей пызнаець па голысу.* Арцёмаўка Краснап.

ПЫЗЫБАВІЦЦА, *дзеясл.* Забавіцца, прабыць дзе-небудзь доўгі час. *Матка мне скызала: «Ідзі, ды ні пызыбайся там».* Ясенка Краснап.

ПЫЗЫБІВАЦЬ, *дзеясл.* Пазабіваць, забіць. *Ну і ўдаліс сыночкі! Нідзе за імі ні прайдзі, дзяцей — пызыбіваюць проста.* Старае Сяло Мсцісл.

ПЫЗЫВАДЖЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Завесціся [пазаводзіцца]. *У мясі пызываджываліс чэрві.* Маластоўка Краснап.

ПЫЗЫГРІБАСТЫЦЬ, *дзеясл.* [Загрэбці], пабраць нахабна, сілком захапіць. *Пызыгрібастылі сабе лепшыя кускі, а нам цяпер зысталіся адны выбаркі.* Пірагова Мсцісл.

ПЫЗЫПАРО́ШЫНЫЙ, *прым.* [Запарушаны]. *Трэба прамыць вочы, ато пызыпарошыны пылам.* Тур'я Краснап.

ПЫЗЫРА́НА, *прысл.* Зарана, не ўпару. *Кароў прыгналі сяньні пызырана.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫЗЫРА́НІЙ, *прысл.* Як можна раней. *Едзьця туды пызыраній.* Брылёўка Краснап.

ПЫЗЫДА́ЦЬ, *дзеясл.* [Паз'ядаць], паесці, з'есці. *Людзі пызыдалі ўсё, што ны стале було.* Палуж Краснап.

ПЫЗЬЛІЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Злізаць [пазлізваць]. *Сьмітанку, як кот, пызьлізаў. Сьвіньня цеста паела, аўца муку пызьлізала.* З нар. песні. Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ПЫЗЯ́БНУЦЬ, *дзеясл.* Змерзнуць. *Ны нашлезі я сяньні здорыва пызяб.* Кокатава Мсцісл.

ПЫЙМА́НЬНЯ, -я, *н.* [Лоўленне], ловы. *Рысказываў пры пыйманьня сыбак у горыдзі — кызаў, пятлю на шыю кідаюць.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫЙМА́ЦЬ, *дзеясл.* Злавіць. *Брахун вядомэй — яго ў ступі тыўкачом ні пыймаіш!* Парадзіна Мсцісл. *Зы дзьвюмя зайцымі пагонісься — ні днаго ні пыймаіш.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫЙСКЛА́СЬЦІ, *дзеясл.* Паскладваць, скласці. *Лясьнік зыгыдаў пыйскласьці дровы ў груды.* Турэйск Краснап.

ПЫКАЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Збуяць, буйна вырасці. *Пыказілыся рэпа ны гародзі — націна, як лес.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫКА́ЗЫВЫНЬНЯ, -я, *н.* Паказванне, паказ. *Пысьля дыкладу, кызалі, будзіць пыказывыньня карціны, але я ні зыстылася.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫКА́ЗЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Паказваць. *Сяньні нам вучыціль пыказывыў конпыс.* Бяседавічы Хоцім. *Што ты мне язык пыказывыіш, жэўжык ты!* Касперка Мілясл.

ПЫКА́Й, -ю, *м.* Пакаянне. *Скольні гряшыў і памёрь біс пыкаю.* Б. Хутары Краснап.

ПЫКАЛЕ́НЬНЕ, -я, *н.* Замярзанне, адрантвенне ад холаду. *Ат пыкаленьня ніяк ні атыйду: на печы мяне трясець.* Карма-Пайкі Краснап.

ПЫКАЛО́ЦЬ, *дзеясл.* Пакалоць. *Ны аржоньня я пыкалоў сабе чыста ногі.* Цівецкая Краснап. *Хацеў нырваць агрісту, ды толькі рукі пыкалоў, а агрісту таго ні нашчупыў.* Арцёмаўка Мілясл.

ПЫКА́НЬКЫЦЬ, *дзеясл.* Папрасіць. *Прыдзя час, што й ты ў мяне пыканькыіш, ды я ні дам табе.* Палуж Краснап.

ПЫКАРМІ́ЦЬ, *дзеясл.* Пакарміць. *Пыкармі ты сваю куріцу, ато йіца ні зьнясець.* Ушакі Чэрык.

ПЫКА́Т, -а, *м.* Пакат, скат, схіл. *У парогу троху пыкат ёсьць, бач, выда цякець туды пы масту.* Арцёмаўка Мілясл.

ПЫКА́ТА, *прысл.* Паката. *Куды пыката, туды выда і цячэць.* Палуж Краснап.

ПЫКА́ТЫЙ, *прым.* Пакаты. *Мост дзелыіцца пыкатый, штоб выда сьцікала.* Тур'я Чэрык.

ПЫКА́ШЛІВАЦЬ, *дзеясл.* [Пакашліваць], кашляць час-ад-часу. *Дзеду што? Ён сядзіць сабе ны пячы ды пыкашлівыя.* Мышкі Расням. *Сядзеў на печы сівый дзед і пыкашлівыў.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫКВА́ПІЦЦА, *дзеясл.* Паквапіцца, спакусіцца. *Пыквапілась дзеўка на быгацьце — вышла за ніроўню, дык цяпер і бядуіць.* Сохана Мсцісл.

ПЫКЛА́ДНЫЙ, *прым.* Ста́лы. *Ён такей пыкладный чылавек, яму можна верыць.* Палуж Краснап.

ПЫКЛА́СЬЦЬ, *дзеясл.* Пакласці, палажыць. *Сюды нада пыкласьці рэйку.* Хвёдараўка Краснап. *У маё хызяйства трэба болі пыкласьць, чым яно табе дасьць.* Пірагова Мсцісл. *Пыклалі ўжо мурлаты ў хату.* Цівецкая Краснап.

ПЫКЛЫДА́НЬНЯ, -я, *н.* Думка, дбанне. *У яго пра другога ніякыга пыклыданьня німа, усё б сабе зыбраў.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫКЛЫДА́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Спадзявацца. *Ны яго нечыга пыклыдацца, сымаму нада зьдзелыць.* Арцёмаўка Мілясл. 2. Есці адной лыжкаю некалькім чалавекам, дзяліцца. *Прынясьлі ў поля сьніданьня, ды адну толькі ложку ны дваіх; прышлось пыклыдацца: адзін хлябнець, тады другій, так усё і пысірбалі.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫКЛЫПАЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Паклапаціцца, патурбавацца. *Госьці прышлі, а іна хоць бы пыклыпацілысь прыбрацца трошкі.* Парадзіна Мсцісл.

ПЫКЛЫПАЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Патурбаваць. *Пыклапаці там свата, штоб скарей выіжджаць, ато ён як рызьвядзець там байкі, дык да вечыря ні выідзем.* Малюшын Краснап.

ПЫКРА́ЖА, -ы, *ж.* Пакража. *У нас сёліта здарылась пыкража: укралі кыня з хліва.* Пірагова Мсцісл.

ПЫКРА́СА, -ы, *ж.* Афарбоўка. *Пыкрасілі агарожу, а пайшоў дождж — і уся пыкраса сышла: нада ўноў красіць.* Б. Хутары Краснап.

ПЫКРА́СІЦЬ, *дзеясл.* Пафарбаваць. *Вароты нада пыкрасіць у зялёныя.* Аляксандраўка Краснап.

ПЫКЫЗА́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Паказацца, з'явіцца. *Толькі сьнег стаіў, а ўжо й пралескі пыкызалісь.* Слаўнае Мсцісл. 2. Паказацца, здацца. *Мне пыкызалысь, што, быццым, нехта прайшоў з-пыд выкна.* Залесавічы Крыч.

ПЫКЫЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Паказаць. *Ён нахмурыўся, штоб пыкызаць, што сярдзіт.* Арцёмаўка Краснап. *Пыкажы мне твайго кыня, я пыгляджу ны яго.* Навасёлкі Мсцісл.

ПЫКЫЛЯСІ́ЦЬ, *дзеясл.* Павандраваць. *Наш вучыціль, як відаць, шмат пыкылясій па сьвету.* Палуж Краснап.

ПЫКЫНА́ЦЬ, *дзеясл.* Сканаць, памерці. *Як прыдзіцца пыкынаць, дык некыму пыхываць.* Брылёўка Краснап.

ПЫКЫРБА́ЦІЦЦА, *дзеясл.* [Пакарабаціцца], пакасіцца, пакруціцца ад высыхання. *Дошка пыкырбацілыся.* Хвёдараўка Краснап. *Калі пыпадзець аўчынный тулуп пад дождж, дык пыкырбаціцца высыхшы і дзелый тады зь ім, што хочаш.* Пірагова Мсцісл.

ПЫКЫЧА́ЦЦА, *дзеясл.* Пакачацца. *Конь пы сьнягу пыкычаўсь, дык во якоя месца выкычаў.* Гарцуеўка Краснап.

ПЫЛ, -у, *м.* Пыл. *Змахні пыл з лаўкі, ніхай чылавек сядзіць.* Вітрунь Касцюк. *Дос табе трэсьці гэсты мяшок — ныдыла пылу, аж цёмна ў хаці.* Ушакі Чэрык.

ПЫЛАВІНА, -ы, *ж.* Палавіна. *Пылавіна агрыстніку высыхла.* Шыркі Расьнян. *Пылавіну нашыга мыста зьнясло вясною ў павыдкі.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫЛАВІНКА, -і, *ж.* Памянш. ад пылавіна. *Дай мне хуць пылавінку яблыка.* Зяціна Мсцісл.

ПЫЛАВЫЙ, *прым.* Палавы, жоўташэрае масці. *У яго былі два кані: чмарый і пылавэй.* Бяседавічы Хоцім. *У яго пылавэй конь.* Забор'я Краснап.

ПЫЛАЖЫЦЦА, *дзеясл.* Умовіцца, дагаварыцца. *Ён пылажыўся са мною, што прыйдзя ва ўторык.* Палуж Краснап.

ПЫЛАЖЫЦЬ, *дзеясл.* Палажыць, пакласці. *Нымазыла я маслым хлеба і дыла яму, а ён масла зьлізаў, а хлеб пылажыў на слоніц.* Гарадок Расьнян. *Пылажы браўно на лісу.* Тур'я Чэрык. *Пыдралысь кішэня, й пылажыць нічога нільга.* Ушакі Чэрык.

ПЫЛАЖЭНЬНЯ, -я, *н.* Становішча. *Пылажэньня рабочых і крісьцян палуччылысь прі Савецкай уласьці.* Слаўнае Мсцісл. *Ны вайне ўсяк буваіць, буваіць такоя пылажэньня, што ныз̆ад ні пыбяжыш і напірад ні пайдзеш: усюдых сьмерць.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫЛАЗОК, -зка, *м.* Палазок, падошва ў плузе. *Васіль, у цябе ж у плузе пылазок сьцёрся.* Бязводзічы Мсцісл.

ПЫЛАНКІ, -аў, *мн. л.* Невялікія начоўкі, якімі апалаюць зерне. *Вазьмі пыланкі і прыпылай вось гэты ячмень.* Студзянец Касцюк.

ПЫЛАПЫЦЬ, *дзеясл.* Памацаць. *Пылапыў упоцімку і нічога ні знайшоў.* Вітрунь Касцюк.

ПЫЛАТНО, -а, *н.* Палатно. *Ны навойчык накручваюць пылатно.* Парадзіна Мсцісл. *Пылатно на бель бяліла.* Маластоўка Краснап.

ПЫЛАХЛІВЫЙ, *прым.* Палахлівы, баязлівы, пужлівы. *Етый конь дужа пылахлівый.* Дубеец Касцюк.

ПЫЛАЦІ, -ей, *мн. л.* Палаткі, вісячыя нары пад стольлю. *Дзеці лазілі на пол, з полу на печку, а з печкі ны пылаці і зноў ныз̆ад.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫЛІВАНЫЙ, *прым.* Паліваны. *Пыліваны жбан гладык і кряпчэй за ніпыліваныга.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫЛІНДВІЦА, -ы, *ж.* Паляндвіца. *Смашныя пыліндвіца вышла з нашыга парсюка.* Палуж Краснап.

ПЫЛІСАДНІК, -а, *м.* Палісаднік, агародчык каля хаты, звычайна засаджаны кветкамі. *Хачу свой пылісаднік абгырадзіць лескыю.* Сохана Мсцісл.

ПЫЛІТАЦЬ, *дзеясл.* Палётаць. *Галуб пылітаў і сеў на крышу.* Лешчынка Мсцісл.

ПЫЛІЧЫЦЦА, *дзеясл.* [Падлічыць], парахавацца. *Стой, нада пылічыцца, сколькі ты плаціў і сколькі я — хто каму доўжын.* Дубеец Касцюк.

ПЫЛОК, пылку, *м.* Памянш. ад пыл. *Пылок пыдняўсь с трухлявый калоды.* Палуж Краснап.

ПЫЛУМАЦЦА *дзеясл.* Паламацца, зламацца. *Выга ў калодзіжы пылумалысь, і вады біз вярёўкі дыстаць нельга.* Арцёмаўка Міласл. *Загвыздка пылумалысь, і каток зьехыў з восі.* Глупікі Крыч.

ПЫЛУМАЦЬ, *дзеясл.* Паламаць, зламаць. *Гылыварез етый, то дзяцей паб'ецЬ, то гуркі з град выбіріць, то ў хаці што-нібудзь пылумаіць.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫЛУСКАЦЬ, *дзеясл.* Палушчыць. *Нада етый квасоль пылускаць і выкінуць лузгу авечкым, яны зьядуць.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫЛУСЬВЕТ, -а, *м.* Прайдзісвет. *Ці ты ні знаіш етыга пылусьвета — прайды ат яго ні пачуіш.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫЛЫМАЦЦА, *дзеясл.* Паламацца, зламацца. *Пылымаўсь у быране ворчык.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫЛЫСА, -ы, *ж.* [Паласа], шнур зямлі. *Мыя пылыса зымуражэла. Ныкат пашоў пы пыласе — нехта праехыў.* Хвёдараўка Краснап. *Перва пасеім тут, а тады паедзім ны дальнюю пыласу.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫЛЫСКАЦЬ, *дзеясл.* Паласкаць. *Я пылыскала ны падолі плацьця і забылыся пасініць там.* Пацкава Мсцісл.

ПЫЛЮБОЎНІК, -а, *м.* Палюбоўнік. *Пылюбоўнік яе прасіў, штоб іна кінула мужыка і выйшла зы яго замуж.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫЛЮБОЎНІЦА, -ы, *ж.* Палюбоўніца. *Кінуў жонку і знайшоў сабе пылюбоўніцу і жывець зь ёю.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫЛЯГЧЭНЬНЯ, -я, *н.* Палягчэнне [палёгка]. *Сёліта у налогах ёсьць пылягчэньня супраць летышніга.* Касцюшкавічы Крыч. *Ны душэ чуствуіцца нейкыя пылягчэньня, як скызалі, што ета ні праўда.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫЛЯДЗЕЦЬ, *дзеясл.* Паглядзець. *Пылядзі на ветрыньнік — куды веціp дмець.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫЛЯДКА, -і, *ж.* [Ляда], поле, узаранае пасля выкарчавання лесу. *На етых пылядкых добра родзіць.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫЛЯЖАЦЬ, *дзеясл.* Паляжаць. *Ета сена яшчэ волкывыта, ніхай пыляжыць, нільзя яго такім гресьць.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫЛЯНА, -ы, *ж.* Паляна. *Ідзі так пряма лесум, выйдзіш на пыляну, а за пыляную і яго хутыр.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫЛЯНІЦА, -ы, *ж.* Невялікі белы хлеб. *У радзіцільскую суботу поп за памінальніцы назьбіраў пуды са тры пыляніц.* Куляшоўка Клім.

ПЫЛЯЎКА [пляўка], -і, *ж.* Палёўка, яблыня, што расце ў полі. *Ведыю адну пыляўку, ну і добрыя; яблыкі, што з саду.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫЛЯЦЕЦЬ, *дзеясл.* 1. Паляцець. *Восінь ужо—птушкі пыляцелі ў вырай.* Большая Дуброва Касцюк. 2. Зваліцца [паваліцца]. *Ішла пы кладычцы, апшаснулыся і пыляцела ў ваду.* Старае Сяло Мсцісл. 3. Хутка пабегчы. *Спычатку конь ішоў ціха, а та-*

*ды калі пыляціць наўскыч, дык я чуць задзержыўся.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫМАГЧЫ [памо́жч], *дзеясл.* 1. Памагчы. *Пымажы мне етый пысад змылаціць, а тады ідзі сабе, я ўжо і адзін упраўлюся.* Зяціна Мсцісл. 2. Перамагчы [асіліць]. *Ён яго паможа, бо дужэйшы зы яго.* Гарцуеўка Краснап.

ПЫМАЛІЦЬВІЦЬ, *дзеясл.* Папрасіць настойліва. *Пымаліцьвій бы ты яго добра, дык даў бы.* Тур'я Чэрык.

ПЫМА́ЛУ, *прысл.* Ціха, асцярожна. *Пымалу ты варочыйсь кыла посыду, ато рызаб'еш.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫМАЎЧАЦЬ, *дзеясл.* Памаўчаць. *Ну які ж зюкліві гэсты чылавек — ён жа, бач, і мінуты ні пымаўчыць.* Ушакі Чэрык.

ПЫМА́ЦЫЦЬ, *дзеясл.* Памацаць. *Пымацый рукою бульбу, ці сьпіклася яна?* Гібалы Касцюк.

ПЫМЫГА́НЬНЯ, -я, *н.* Памаганне, дапамога. *Пымыганьня тваё мяне з бяды выручыла.* Лешчынка Мсцісл. *Ні нада мне твайго пымыганьня — біз цябе абыйдусь, знаю я тваю дыбрату.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫМЫГАЦЬ, *дзеясл.* Памагаць [дапамагаць]. *Браткі пымыгаюць ад кашлю, калі іх ныпарыць ды выпіць.* Барысавічы Клім.

ПЫНАБУ́РХЫЦЦА, *дзеясл.* Налезці, назбірацца. *Пынабурхылыся гасьцей — нейдзі ні сесьць, ні стаць.* Палуж Краснап.

ПЫНАДЗЕ́ЛЫЦЬ, *дзеясл.* Нарабіць. *Ой, колькі вывырытыў пынадзелыла бура! Кыткамі глубокія выбоі пынадзелылі.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫНА́ДЛІВЫЙ, *прым.* Унадлівы. *Ета карова пынадліва: як пыбывала раз у ваўсе, дык цяпер ні ўдзержыш яе.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫНАЕ́ХЫЦЬ, *дзеясл.* Панаехаць [наехаць]. *Анучнікі пынаехылі ў дзярэўню.* Палуж Краснап.

ПЫНАЖЫ́, -оў, *мн. л.* Панажы (у кроснах). *Лекса прівізала к нітам пынажы.* Гібалы Касцюк. *Нажмі луччы пынажы, ато чаўнок ні пралезіць.* Бяседавічы Хоцім. *Пынажы чыпляюцца адзін ны адзін.* Слаўная Мсцісл.

ПЫНАЗВЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Паназываць [назваць]. *Злодзія спыймалі, і ён пыназвывыў усіх сваіх супольнікыў.* Барысавічы Клім.

ПЫНА́ЗВЫНЫЙ, *прым.* Названы, памянёны. *Усі пыназвыныя мужчыны і жынкі пайшлі ды прідсідаціля.* Клімавічы.

ПЫНАЗО́ВЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Паназываць [назваць]. *Ён павыдасьць, паназовывыя ўсіх, хто зь ім хадзіў.* Гарадзец Бабр.

ПЫНАРО́ЎКА, -і, *ж.* Звычка. *Дычка ў матку ўдылася, маткіны вочы, бровы, маткіны й пынароўкі.* Палуж Краснап.

ПЫНА́СЬКА, -а, *м.* Памянш. ад уласнага імя Панас. *Мой Пынаська сёньні торбу аряхоў прынёс.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ПЫНАХВІ́ДА, -ы, *ж.* Паніхіда. *Хадзіла к папу служыць пы бацьку пынахвіду: сяньні якраз угодкі па ім.* Гарбавічы Краснап.

ПЫНЕ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Панесці. *Пынясьлі ўжо нашыга Міхалку ны паконішча.* Ушакі Чэрык.

ПЫ́НІ, пабочн. слова. Моў, [маўляў]. *Ён, пыні, зыдаецца, што ў горыдзі пабыў.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫНЦІРІСЫВАЦЦА, *дзеясл.* Пацікавіцца. *Нада схадзіць пынцірісывацца, што там на сходкі будуць гуваріць аб страхоўцы.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫНЫВА́НЬНЯ, -я, *н.* Панаванне, жыццё ў раскошы. *Кончылысь іх пыныванья, січас наша ўласьць.* Крычаў.

ПЫНЫРА́ВІЦЦА, *дзеясл.* Спадабацца. *Пыглядзіця, можа і пыныравіцца вам.* Пірагова Мсцісл.

ПЫНЫРАВІЦЬ, *дзеясл.* Пачакаць. *Пыныраві троху, пакуль спраўлюся, тады паедзім разым.* Палуж Краснап.

ПЫНЫРА́Ў, -ву, *м.* Густ. *Яна прыйшлася мне да пыныраву.* Турэйск Краснап.

ПЫНЯВО́ЛЬНЫЙ, *прым.* Паднявольны, падлеглы. *Што ж падзелаіш, дачушка, пынявольныя мы пакуль што, вот, пастроім сабе хатку, тады увыйдзём ат' етуль.* Пірагова Мсцісл.

ПЫНЯСЬЦІ [пане́сьць], *дзеясл.* Панесці. *Ныпарілі поўны цэбір мякіны і пынясьлі каровым.* Арцёмаўка Міласл. *Пынясьлі мяльліцу к лазьні, будуць лён мяць.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫНЯ́ТНА, *прысл.* Зразумела. *Пынятна, што мне больш зы яго заплоцюць, бо я ўдвыя зы яго зьдзелыю. Каждыму пынятна, што сьвякрова ня будзіць пестыць, як матка.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫНЯ́ТНЫЙ, *прым.* Зразумелы. *Етый урок быў длі мяне зусім пынятный.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫНЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Зразумець, схапіць сутнасць. *Хлопцу пыкызалі, як дзелыць, і ён дужа скора пыняўся.* Палуж Краснап.

ПЫНЯ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Заняць [захапіць], заліць (вадою). *Выда пы забырсьні пыніла.* Кажамякіна Мсцісл. 2. Зразумець. *Ён яшчэ несмысіль, яму усяго шэсць годзіку, дзе яму пыняць, што ён сірыта зыстаўся.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫПАЛО́ЦЬ, *дзеясл.* Папалоць. *Вазьмі матыку ды пайдзі капусту пыпалі.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫПАС, -а, *м.* Папас, выган. *Пастух пыгнаў сьвіней ны пыпас.* Лешчанка Мсцісл. *Пыўдарогі зьдзелылі, нада спыніцца на пыпас, ато коні прысталі.* Канахоўка Клім.

ПЫПАСЦА, *дзеясл.* Папасціся, трапіць. *Пыпаўсь, агундыр етый!* Малятычы Крыч. *Пыпаўсь ёй у мужы нейкі ніўдаліца.* Маластоўка Краснап.

ПЫПАЎЗУ́ХА, -і, *ж.* Паземка [замець]. *Ны дварэ тыкая пыпаўзуха, што ўраз сьлядзы замітая.* Новае Сяло Мсцісл.

ПЫПІРА́ШКА, -і, *ж.* Кій. *Узяў сабе пыпірашку і пашоў ны сяло.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫПІСА́ЦЬ, *дзеясл.* Зрабіць опіс, апісаць. *Усё пыпісалі.* Казельская Буда Краснап.

ПЫ́ПЛА, -ы, *ж.* Цяльпук, непаваротлівы [павольны ў дзеянні] чалавек. *Скажы яму што зьдзелыць, дык пакуль ён паверніцца, пыпла етый, у цябе цярпеньня ня хопіць.* Касцюковічы.

ПЫ́ПЛІЦЦА, *дзеясл.* Марудзіць. *Ня пыпліся, а грабі хуччэй, ато сонца зойдзя, а ты сена ні зграбеш.* Горка Краснап.

ПЫПРА́ВІЦЬ, *дзеясл.* Паправіць. *Пайдзём мы с табой ны кладзішча, нада таткыву магілку пыправіць.* Ушакі Чэрык. *Пыпраў падузу ны кані, ато набык зьехыла.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫПРІДА́ЦЬ, *дзеясл.* Прасці [заняцца нейкі час пражаю]. *Справіліся з работый, цяпер сяду пыпрідаць.* Палуж Краснап.

ПЫПРЫСЯ́ШЧЫЙ, *прым.* Проська, чалавек, што выпрошвае. *Ой, якей ты пыпрысяшчы, усяго табе даць!* Хвёдараўка Краснап.

ПЫПРЯ́ВА, -ы, *ж.* Папраўнак [выздараўленне], палепшанне. *Як твой Янка? Дзякую, ёсьць невялікыя пыпрява, але слабы яшчэ.* Канахоўка Клім. *Пыпрява на ліцо: піць пірістаў і ні буяніць.* Добрае Мсцісл.

ПЫПРЯ́ВІЦЦА, *дзеясл.* Папраўіцца, патаўсцець. *Глядзі, быў сухі, як тыран, а як пабыў дома — пыпрявіўся.* Глупікі Крыч.

ПЫПРЯ́НІК, -а, *м.* Пернік. *Я нипікла пыпрянікыў.* Гарадзецкая Краснап.

ПЫПСУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Папсавацца [сапсавацца]. *Замок пыпсуваўсь —ніяк ні 'дымкнуць.* Татаршчына Мсцісл.

ПЫПСУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Папсаваць. *Умішаўся і пыпсуваў усё дзела.* Асмолавічы Мсцісл.

ПЫ́ПЦІ, -іў, *мн. л.* Кіпці, вялікія кіпцюры. *Пыабрэзыў ба ты пыпці ны руках, ато, як рыдлёўкі, зыгыдуваў.* Юравічы Крыч.

ПЫПЫДА́ЦЬ, *дзеясл.* Пападаць. *Майго ж так цяцюха трасе, што зуб на зуб ні пыпыдае.* Дарагая Крыч.

ПЫПЫЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Папажаць [пажаць, пажынаць]. *Дзянёк пыпыжалі — тры копычкі ныжалі.* Касперка Мілаасл.

ПЫПЯРЦІ́ [папёрць], *дзеясл.* Панесці. *Цяжка етый мех пыпярці, але каб аддалі — занёс бы двору.* Палуж Краснап.

ПЫРАІ́ЦЦА, *дзеясл.* Параіцца. *Пырайся ты луччы з другімі, ня ведаю, што табе сказаць.* Гібалы Касцюк.

ПЫРАІ́ЦЬ, *дзеясл.* Параіць, даць параду. *Ні магу табе нічога пыраіць, бо нічога ня ведыю ў етый справе.* Дубеец Касцюк.

ПЫРІЖНЯКО́М, *прысл.* Паражняком, паражнём. *Звырачывый набык, ато я з возум, а ты — пыріжняком.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫРІСКРІДА́ЦЬ, *дзеясл.* [Параскрадаць], раскрасці, пакрасці. *Усё адзяньнё з кубла пыріскрідалі.* Тур'я Краснап.

ПЫ́РІЦЬ, *дзеясл.* Турбаваць, не даваць пакою. *Быгацьця пыря цябе, што ты й заснуць ня можыш.* Горкі Краснап.

ПЫ́РСКАЦЬ, *дзеясл.* Пырскаць. *Пыўлазілі ў ваду, і дывай адзін ны аднаго пырскаць.* Добрае Мсцісл.

ПЫ́РСКІ, -аў, *мн. л.* Пыркі. *Ня пырскый, ато пырскі пряма ў вочы.* Добрае Мсцісл.

ПЫ́РСКЫЦЦА, *дзеясл.* Пырскацца. *Дос табе пырскыцца, ато і так ны масту лужы пыналівалі.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫРУКА́ЦЦА, *дзеясл.* Прывітацца за руку. *Я пырукаўся зь ім.* Палуж Краснап.

ПЫРУХА́ВЕЦЬ, *дзеясл.* Парухавець, зрабіцца больш рухавым. *Сьцебані кыня пугыю, можа ён троху пырухавеіць.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫРЦЯ́НКА, -і, *ж.* Парцянка [ануча]. *Пырцянкі ат поту і гразі ў луб злубелі.* Парадзіна Мсцісл.

ПЫРЦЯ́НЫЙ, *прым.* Парцяны, зроблены з порту. *Пырцяныя штаны ўзімку ні греюць.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫРЬВА́ЦЦА, *дзеясл.* Парвацца. *Пачопка пырьвалысь у люльцы.* Лешчынка Мсцісл. *У быране пырьвалысь пліскоўка.* Восаў Краснап. *Ён любіць журтуваць, іншый раз як прідумыіць што-небудзь, дык со́ сьмеху пырьвацца.* Арцёмаўка Мілаасл. *Пырьвесься ты, а ні падыміш ета!* Хвёдараўка Краснап.

ПЫРЬВА́ЦЬ, *дзеясл.* Парваць. *Вісеў ны сьцяне палтрет дзеда, дык дзеці дысталі і пырьвалі ны шматкі.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫРЬКА́Н, -а, *м.* Паркан, агароджа. *Быгаты, відаць, — з досык пырькан укруг двыра пыставіў.* Парадзіна Мсцісл.

ПЫРЬКАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Парнуць. *Узялі дзеці кій ды дывай дражніць у будца сыбаку — то ў бок, то ў нос пырькануць.* Ушакі Чэрык.

ПЫ́РЬНІК, -а, *м. бат.* Пырнік. *Пырьнік — харошыя трыва, і з яе палучаецца харошыя сена. Яго любяць коні і каровы.* Пірагова Мсцісл. *Пылянь, як пырьнік зілянеіць, усі роўна, як рунь увосінь.* Ушакі Чэрык. *Пайду нажну пырніка, ато карові даць німа чаго.* Парадзіна Мсцісл.

ПЫРЬНЫТА́, -ы, *ж.* Парнасць, духата. *Ат пырьнаты дыхыць нечым.* Палуж Краснап.

ПЫРЬНЯ́, -і, *ж.* Парня, месца, дзе пароць палазы. *Пырьня атчыніна, і дух увесь вышыў.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫ́РЬСНУЦЬ, *дзеясл.* Пырснуць. *Пырьснуў ны яе гразьзю і пысадзіў на белай сукенцы пляму.* Ушакі Чэрык. *Ужу старуха, а красныя ікая, ягыткі так і цьвітуць, глядзі, што кроў з шчок пырьсьніць.* Арцёмаўка Мілаасл.

ПЫРЬСЮЧО́К, -чка, *м.* Памянш. ад парсюк. *Пырьсючка (а)бварылі варым, абскублі і пычалі пытрашыць.* Парадзіна Мсцісл.

ПЫРТНЯ́ГА, -і, *м.* Кепскі кравец. *Пырьтняга кажух толькі згадзіў.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫРЬТЫБА́К, -у, *м.* Партабак, скрынка насіць табаку. *Вялікім паным зьдзелыўся — купіў сабе пырьтыбак.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫРЬТЫМАНЕ́Т, -а, *м.* Партманет, капшук на грошы. *Я купіў сабе пырьтыманет хуваць грошы.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫРЬХА́ТКА, -і, *ж. бат.* Порхаўка. *Пысьля дожджу пу балоці пырьхатык сколькі нырясло.* Казельская Буда Краснап.

ПЫРЯ́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Парадзіцца, пасаветавацца [параіцца]. *Я прішоў ды вас*

*пырядзіцца, дзе будзім сеіць лён.* Горка Краснап.

ПЫРЯ́ДКЫМ, *прысл.* Шмат. *У вынбары пырядкым мышэй зывялось.* Палуж Краснап.

ПЫРЯ́ДЫК, -дка, *м.* Парадак. *Я злажыў усі вешчы у пырядык, каб другі раз ні шукаць.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫРЯ́ДЫЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад пырядык. *Пыкыпайця мае грядычкі,* ‖ *Пыкажыця мне пырядычкі.* З нар. песні, М. Г. 106.

ПЫРЯ́ДЫШНА, *прысл.* Досыць многа, шмат. *Сёліта бульбы мы ныкыпалі пырядышна — хопіць і сабе і сьвіньнім.* Канахоўка Клім.

ПЫРЯ́ДЫШНЫЙ, *прым.* Досыць вялікі. *Сім'я ў суседа пырядышныя: пітнаццыць душ.* Брылёўка Краснап.

ПЫРЯ́ДЫШНЫГА, *прысл.* Досыць многа, шмат. *Дзяцей у мяне пырядышныга: адных сыноў семіра, а дзевык, дык і ні сышчытаць.* Брылёўка Краснап.

ПЫРЯ́ЛІШ, -а, *м.* Параліч. *Старога Пынаса пыряліш ударіў: ні рукой, ні нагой ні шаволіць і гуваріць ні можыць.* Трубільня Краснап.

ПЫРЯСЁ, -яці, *н.* Парася. *Пырясё наша нейдзі прыпала — есьць ні йдзець і з сьвіньнімі німа.* Сапрынавічы Мсцісл.

ПЫРЯСЁНЫК, -нка, *м.* Парасё. *Пылянь, якей малінькій пырасёнык бегыіць.* Лешчынка Мсцісл. *Кінуў вілымі ў пырасёнка і прыткнуў яго наскрозь.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫРЯСЁНЫЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад пырасёнык. *Занідзьбей наш пырасёнычык, ныўрад ці будзя жыў.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫРЯСІ́ЦЦА, *дзеясл.* Парасіцца, змачыцца аб расу. *Я сяньні пырясіўся, ходзічы па лугу.* Палуж Краснап.

ПЫРЯСПУ́ХНУЦЬ, *дзеясл.* [Параспухаць], распухнуць. *На шыі залозы пыряспухлі.* Сохана Мсцісл.

ПЫРЯСЬЦІ́, *дзеясл.* Парасці, вырасці. *Вось сёліта бульба вялікая пырісла.* Ушакі Чэрык.

ПЫРЯТУ́НЫК, -нка, *м.* Паратунак, дапамога. *Прішоў я к вам на пырятунык.* Буглаёўскі Краснап.

ПЫРЯХО́НЬ, -і, *ж.* Парахня, сухая гніль дрэва. *Ідзі пушукай пыряхні, цяпло разьвесьць. Дывай пытпалім ету пыряхонь. Ад пня толькі адна пыряхонь астылася.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫРЯ́Ч, -а, *м.* Парач, доўгая палка, якая служыць замест качаргі. *Выкаці мне пырячом бульбінку з цяпла.* Гібалы Касцюк. *Дай пыряч, трэба бульбу пывярнуць.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫРЯ́ЧЫК, -а, *м.* Памянш. ад пыряч. *Бяры пырячык, варочай бульбу!* Хвёдараўка Краснап.

ПЫРЯШЫ́НА, -ы, *ж.* Крошка, самая малая частка [парушына]. *Пыряшына там таго масла, і таго я сыма ня зьела — яму аддыла.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫСА́, -ы, *ж.* Пыса, морда ў каровы, каня, сабакі. *Прыгожыя пыса у етыга кыня.* Хвёдараўка Краснап. *У майго сыбакі ўся пыса ў крыві, знаць, ізноў зайца зыдраў.* Барысавічы Клім.

ПЫСА́ГА, -і, *ж.* Пасаг. *Іна ж, як замуж ішла, дык ёй бацька даў пысагі сто рублёў і карову, дык і пысага ета прыпала — у яго карова здохла.* Арцёмаўка Міласл. *Манька купіла сабе куфар на пысагу.* Варанёва Крыч. *А я ж табе пысагу гатувала, а каму ж яе аддываць буду?* Стары Дзедзін Міласл.

ПЫСАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Пасадзіць. *Пысадзі мяне на покут, як самыга лепшыга гысьця.* Ушакі Чэрык. *Нада пысадзіць высадкі.* Хвёдараўка Краснап. *Кыбына пысадзілі ў зысаду.* Палуж Краснап.

ПЫСА́ДКА, -і, *ж.* Прысады, дрэвы, пасаджаныя ўздоўж дарогі. *Пайэ дарогі цянёк ад пысадкі.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫСАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Пасаліць. *Мы на зіму капусты пыставілі і гуркоў пысалілі ныпылавіну з быкльжаными.* Арцёмаўка Міласл. *Мяса ета нада пысаліць, ато спорціцца.* Юшкі Мсцісл.

ПЫСІ́КАЦЬ, *дзеясл.* Пасячы [пасекчы пэўны час]. *Дровы нада пысікаць.* Палуж Краснап.

ПЫСКА́ЛІЦЬ ЗУ́БЫ. Пасмяяцца. *Пыскаліў зубы, дык і далі пу зубам.* Клімавічы.

ПЫСКАНЬНІ́, -ей, *мн. л.* Пласконне, валакно з плоскуней. *З пысканьней ткуць мяшкі і дзярюгі.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫСКІПА́ЦЦА, *дзеясл.* Пашчапацца. *Етый гребінь ужо саўсім пыскіпаўся, ужу мычка на ём ні сядзіць, як нада.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫСКЛА́СЬЦЬ, *дзеясл.* Паскладаць. *Нешта хмарна, нада сена ў копы пыскласьць.* Старае Сяло Мсцісл.

ПЫСКЫКА́ЦЬ, *дзеясл.* Паскакаць. *Нігай скымарохі пыйграюць, дзеўкі хочуць пыскыкаць трохі.* Арцёмаўка Міласл. *Мне хочыцца пыскыкаць с табой польку.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫСКЫЛЯСІ́ЦЬ, *дзеясл.* Аб'ездзіць. *Як быў я мыладэй, то пыскылясіў увесь сьвет, ні так, як ты, сядура, баісься зь места зрушыцца.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫСЛА́ЦЦА, *дзеясл.* Пасланца, пакаціцца па нізе. *У вас дужа чадна, аж дым сіній пыслаўся.* Сохана Мсцісл.

ПЫСЛА́ЦЬ, *дзеясл.* Пасланць. *Купі там мне кувэрт — пісьмо пыслаць брату трэба.* Ушакі Чэрык.

ПЫСЛУ́ХАЦЬ, *дзеясл.* Паслухаць. *Твайго зыгаду ні пыслухаю, калі навыт і прасіць будзіш — нічога ні выйдзіць.* Ушакі Чэрык.

ПЫСМАКУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Пасмакаваць, паспрабаваць. *Я сяньня варыла абед сыма, пысмакуйце-ка, ці пыныравіцца вам!* Пірагова Мсцісл. *Ён любіць пысмыкываць — і сала яму дай, і сьмітаны, і кілбас.* Парадзіна Мсцісл.

ПЫСПАСІ́БКЫВАЦЬ, *дзеясл.* Падзякаваць. *Я его за ета пыспасібкываў.* Тур'я Краснап. *Я перве была заблудзіўсь, ажно нейкій указаў мне куды іці; я пыспасібкываў ды й пашоў сабе пумалу.* Пірагова Мсцісл.

ПЫСТА́ВІЦЬ, *дзеясл.* Паставіць. *Атведылі троху куцьці і пыставілі яе на покуць, у сена.* Ушакі Чэрык. *Пыставіла міску ны самый край стыла, хто-ліба кіўнець стол, дык іна і пыляціць на мост.* Бяседавічы Хоцім. *Укруг двыра пыставіў пыркан з досык.* Парадзіна Мсцісл. *Сымон сабе новыю хату пыставіў.* Ушакі Чэрык. *Дохтыр пыставіў градусьнік.* Хвёдараўка Краснап. *Ён такей чылавек, што калі захочыць, то кажы ні кажы — ён ны сваім пыставіць.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫСТА́НЬНЯ, -я, *н.* Прыпол. *Дзеці бяруць каменьня у пыстаньня.* Тур'я Краснап. *Ні було ў нас у што браць грібы, дык мы ў пыстаньня ныбралі.* Арцёмаўка Мсцісл. *Я ныбрала поўныя пыстаньня гароху.* Лапаціна Мсцісл.

ПЫСТАРЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Пастарэць. *І пыстарэў жа ты, Міхась, за ету зіму, прама ні ўвызнаць.* Татаршчына Мсцісл.

ПЫСТА́ЦЬ, -і, *ж.* Постаць [паласа ў жняі на жніве]. *Мыя пыстаць шырокыя, дык адной жаць ні пасьпешна.* Усцінавічы Краснап. *Баба жжала тую шырорую пыстаць і пычыла другую.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫСТРАМІ́ЦЬ, *дзеясл.* Пасароміць. *Нада пыстраміць сынка, што ня слухае бацьку.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫСТУПА́ЦЬ, *дзеясл.* Паступаць, зварочвацца. *Ягор мілысна пыступае з сваёю жонкыю, аж люба глядзець.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫСТУЎЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Пастаўляцца, казаць ці рабіць што насупроць каго. *Бувала, калі што-нібудзь зацеіць, дык ужу ні станеш з ім пыстуўляцца, ідзі скарей, ато будзіць лупцоўка.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫСТЫЯ́ЛКА, -і, *ж.* Салодкае малако, што стаяла, пакуль смятана адстоілася. *Там ны лаве стаіць пыстыялка ў жбане, вазьмі ды зьеж, а больш што я табе дам?* Роськаў Калінішчына. *З дзіцямі біз пыстыялкі плоха, а ў нас каровы німа, пыстыялкі дзеці і ў вочы ня відзюць.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫСТЫЯ́ННА, *прысл.* Заўсёды. *Ад гэтай ласоўкі нічога ні схуваіш, пыстыянна ўсё лепшыя паесьць.* Ушакі Чэрык. *Ён пыстыянна наробіць шкоды, калі дасі волю.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫСШАЛЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Пашалець, пав'яр'яцець. *Чаго вы крычацё — пысшалелі ці што? Нічога ня чутна, што гаворуць!* Пірагова Мсцісл.

ПЫСЫЛА́НКА, -і, *ж.* Пасланка. *Пысыланка зьвярнулысь і кажыць, што дзядзькі дома німа.* Лютня Краснап.

ПЫСЬВЯЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Пасвяціць. *Зыпалі зыпалку ды пысьвяці трохі.* Сутокі Мсцісл. *Ты, ясёны месічык, ‖ Пысьвяці маім дзяцём!* З нар. песні, М. Г. 127.

ПЫСЬКІПА́ЦЦА, *дзеясл.* Пашчапацца. *Тыпарышча пыськіпалысь.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫСЬКІПА́ЦЬ, *дзеясл.* Пашчапаць, пакалоць. *Добря пыськіпаў палена, будзіць падтопа.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫСЬЛІЗНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Паслізнуцца [пакаўзнуцца]. *Ны дваре аблій, можна пысьлізнуцца і ўпасьць, ні хадзі нікуды з хаты.* Арцёмаўка Міласл. *Ішоў з гары, а ны дарозі лёд — пысьлізнуўсь і зываліўсь.* Парадзіна Мсцісл.

ПЫСЬЛЯ́, *прыназ.* Пасля. *Пысьля марозу ныстаў отліг.* Жэраціно Мсцісл. *Сяньні будзім мылаціць, а пысьля заўтріга — паедзім у пруд малоць.* Радзіонаўка Мсцісл.

ПЫСЬМІЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Пасмяяцца, пажартаваць. *Сымон хоць і старый, а любіць пысьміяцца з мыладымі.* Машавая Бялынкав.

ПЫСЫМА́ЦЬ, *дзеясл.* Паздымаць. *Нехта ноччу пысымаў бяльлё.* Маластоўка Краснап.

ПЫСЫХА́ЦЬ, *дзеясл.* Сохнуць, засыхаць. *Тыкая жыра стаіць, што ўся трыва пысыхая.* Палуж Краснап.

ПЫСЯДЗЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Пасядзець. *Чаго ты сьпішаісься, пысядзі троху, ты ж у нас ні часта бываіш.* Ушакі Чэрык. *Галуза етый круціцца, верціцца — ні мінуткі ні пысядзіць.* Добрае Мсцісл.

ПЫСЯЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Пасяліцца, асесці на жыццё. *У нас у лазьні цыркун пысяліўсь — целый вечыр цыркыіць.* Башары Раснян.

ПЫСЯ́НЬНІ, *прысл.* Да сёнешняга дня. *У мяне кума пазычыла хустку на адзінь дзень, і пысяньні нясець.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫСЯРЁД, *прыназ.* Пасярод. *Пысярод лесу рысла яблыня.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫ-СЯРЕ́ДНІМУ, *прысл.* Сярэдне, пасярэдняму. *Я хацеў зьдзелыць пы-сяредніму, каб ні абідзіць адных, ні пырадываць другіх.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫСЯРО́Д, *прыназ.* Пасярод [сярод]. *Пысярод дарогі йшчэ сьнег ляжыць, а абочынай ужо суха.* Сапранавічы Мсцісл.

ПЫСЯРО́ДКУ, *прыназ.* Пасярод [сярод]. *Дзіцёнык стаіць пысяродку людзей ды плача — зыліваіцца.* Палуж Краснап.

ПЫСЯЧЫ́, [пасеч], *дзеясл.* Пасячы, пасекчы. *Вазьмі зілязьнік і пысячы храп'я сьвіньням.* Залесавічы Крыч. *Я скора вазьму тапор і пысяку ваш каўзель, штоп лапці ні дралі.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫТАНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Зрабіць больш тонкімі, утанчыць. *Трэба коньчык пытаніць, ато ні ўлазіць у дзірку.* Палуж Краснап.

ПЫТА́НЬНЕ, -я, *н.* Пытанне. *На пытаньні будзіць адказываць старшыня сельсавету.* Пірагова Мсцісл.

ПЫТАПЕ́ЧА, -ы, *ж.* Дрыгва, гразь. *Ны лагу у нас посьлі дождж зьдзелылыся тыкая пытапеча, што ня вылізьць.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫТА́ЦЬ, *дзеясл.* Пытаць. *Ня пытай у мяне нічога, бо ўсё роўна ні скажу.* Іванаўка Хоцім.

ПЫТАЧЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Папаўзці, патачыцца. *Сюды вуж пытачыўся.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫТАЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Патачыць [на дзіркі, пагрызці], паесці. *Шашыль стол пытачыў — ны адных дзірках увесь.* Арцёмаўка Міласл. 2. Навастрыць. *Пынясу тапор пытачыць, ато тупэй стаў.* Глупікі Крыч.

ПЫТВО́РНІК, -а, *м.* Балаўнік. *Ваш хлапчук бальшэй пытворнік, усё каб ны*

*руках, ды ны руках, а пыліжаць адзін ні хочыць.* Добрае Мсцісл.

ПЫТКЛАСЬЦЬ, *дзеясл.* Падбіць, падшыць. *Ватоўку сваю пытклала мехым і зрабіла сабе цёплую шубу.* Пірагова Мсцісл.

ПЫТКРІПЛЯЦЬ, *дзеясл.* Падмацоўваць. *Сьціна асела, нада пыткріпляць, ноды зываліцца можыць.* Іванаўка Хоцім.

ПЫТКРЯСІЦЬ, *дзеясл.* Заправіць, здобрыць. *Ядуць нішчымную бульбу, ні сала, ні алею німа, і пыткрясіць нечым.* Серчыцы Краснап.

ПЫТПІРЫЗАЦЦА, *дзеясл.* Падперазацца. *Німа апыяскі — нечым пытпірызацца.* Старае Сяло Мсцісл.

ПЫТРАВА, -ы, *ж.* 1. Патрава, страва, яда. *Дыстывай пытраву, будзім абедыць.* Кокатава Мсцісл. 2. Патрава [шкода, нанесеная на полі, сенакосе ці ў агародзе жывёлай]. *Пытраву бальшую коні зьдзелылі на пожні.* Горня Хоцім.

ПЫТРАВІЦЬ, *дзеясл.* Патравіць, скарміць. *За зіму увесь авёс пытравілі, і сеіць будзіць нечым.* Канахоўка Клім.

ПЫТРАІЦЬ, *дзеясл.* Патроіць, узараць другім разам папар. *Я ужо пытраіў сваё поля.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫТРАПІЦЬ, *дзеясл.* Патрапіць. *Ен ікраз пытрапіць у час. Мне хочыцца пытрапіць вóўрімя на места работы.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫТРАШЫЦЬ, *дзеясл.* Патрашыць. *Парсючка абварылі варым, абмылі і пычалі пытрашыць.* Парадзіна Мсцісл.

ПЫТСІКАЦЬ, *дзеясл.* [Падсякаць], падцінаць. *Пытсікай с етый стыряны, сысна туды будзіць падыць.* Высокі Бор Краснап.

ПЫТСЛУХАЦЬ, *дзеясл.* Падслухоўваць. *Ідзі адцюль, ні пытслухай, што старьшыі гаворюць.* Крычаў.

ПЫТТАПЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Падпальваць дровы. *Вазьмі ды ныдзярі бярёсты, ёю ладна пыттаплівыць печ.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫТЦКУВАЦЬ, *дзеясл.* Падцкаваць [падгаварыць]. *Пытцкувалі малых біцца, а самі рягочуць.* Шумячы.

ПЫТЦУКНУЦЬ, *дзеясл.* Падцкаваць, падгаварыць. *Пытцукнуў хлыпца, а сам нызад: стыдна так дзелыць.* Мсціслаў.

ПЫТЧЫРКНУТЫЙ, *прым.* Падкрэслены. *Выпішы у сшытак усі во етыя пытчыркнутыя словы!* Пірагова Мсцісл.

ПЫТЧЫРКНУЦЬ, *дзеясл.* Падкрэсліць. *Пытчыркніце у етым сказе дзейнік.* Сутокі Мсцісл.

ПЫТЫЛАНІЦЬ, *дзеясл.* Пашчасціць. *Пытыланіла яму ўзяць такую добрую жонку.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫТЫПТАЦЬ, *дзеясл.* Патаптаць. *Коні надзелылі шкоды: пытыпталі і паелі авёс.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫТЫРЯЧЫЦЬ, *дзеясл.* Павезці. *Жаніх нявесту пытырячыў к сабе ў двору.* Палуж Краснап.

ПЫУВЫБРАЦЬ, *дзеясл.* Прыбраць, упрыгожыць. *У школе сьцены пыўвыбралі лапнікым і дзірізою.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫУНЫВАЦЬ, *дзеясл.* Пільнаваць, сцерагчы. *Я цябе тут буду пыўнываць.* Усполле Расням.

ПЫУСПАЦЦА, *дзеясл.* Заснуць моцна. *Людзі ўжо пыўспаліся — самый сон.* Бардзіч Краснап.

ПЫУСПЫЛАШЫЦЦА, *дзеясл.* Перапалохацца [усхапіцца ад нечаканасці]. *Усі пыўспылашыліся, як угледзілі дым — думылі, што пыжар.* Палуж Краснап.

ПЫУТОРНА, *прысл.* [Паўторна], другі раз. *Дохтыр скызаў мне пріціць к яму пыўторна.* Лешчынка Мсцісл.

ПЫХАНЬНЯ, -я, *н.* Пыхканне, паланне. *Ну й рызгарэлісь жа нашы дровы, ад іхнага пыханьня аж горача ўжо стала.* Ушакі Чэрык.

ПЫХАЦЕНЬНЯ, -я, *н.* [Хаценне], жаданне. *Ны ўсякыя пыхаценьня ёсьць цярпеньня.* Сохана Мсцісл.

ПЫХАЦЬ, *дзеясл.* Араць. *Ідзі прывядзі кыня, пайдзём пыхаць.* Бяседавічы Хоцім. *Колькі ты сёньні спыхаў?* Новае Сяло Мсцісл. *Пыхаў мешань — пад жыта.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫХВА, -ы, *ж.* Похва, футляр. *Недзе я пыхву ат куляріў паціряў.* Клімавічы.

ПЫХВАЛА, -ы, *ж.* Пахвала. *Пыхвалы за ета ня будзя.* Палуж Краснап.

ПЫХВАЛІЦЦА, *дзеясл.* Пахваліцца. *Зыхацеў пыхваліцца, да нечым. Ну і ніцый наш Антон, а дзе што б ня зьдзелый — нікому ні пыхваліцца.* Канічы Мсцісл.

ПЫХВАЛІЦЬ, *дзеясл.* Пахваліць. *Вучыціль мяне пыхваліў зы маю работу.* Шарэйкі Касцюк.

ПЫХВЫЛА, -ы, *ж.* Пахвала. *Нашто мне твыя пыхвыла? Я ні хачу, штоб ты хваліў мяне.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫХВЫЛЯ, *прысл.* Счакаўшы, пасля. *Перша я прішоў, а пыхвыля, толькі я рыспрануўся, і ён прыехаў.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫХВЫРАЦЬ, *дзеясл.* Пахварэць. *Пыхвыраў троху, дык сусім зьдзяцініўся — нічым ні ўладзіш.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫХВЫРБЫВАЦЬ, *дзеясл.* Пафарбаваць. *Купіла я чырвоныя хварбы, думаю пыхвырбываць андрак.* Канахоўка Клім.

ПЫХІЛЯНЫЙ, *прым.* Пахілены. *Пыхіляныя макушкі арешын бываюць аттаго, што іх гнуць, рвучы з іх аряхі.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫХІЛЯЦЦА, *дзеясл.* Пахіляцца. *Вішня з вуліцы пычыла пыхіляцца ў сад.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫХІСНУЦЦА, *дзеясл.* Пахіснуцца. *Як на зло, нада было пыхіснуцца майму здароўю ў такоя цяжолыя ўрэмя.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫХЛАПНІ, -ёў, *мн. л.* Лапці з вяровак [лычныя лапці, плеценыя на капыл]. *Мне нада навіць вярёўкі і сплесьць пыхлапні — сусім босы хаджу.* Слаўнае Мсцісл. *Як сплёў я пыхлапні, дык шэсьць нядзель насіў.* Бяседавічы Хоцім. *Пыхлапні ўдвыя больш зы лапці носюцца, а пянькі на іх адна горсьць нада.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫХМЯЛІЦЦА, *дзеясл.* Пахмяліцца. *Трэба сяньні іціць шукаць пыхмяліцца пслі ўчырашніга.* Канічы Касцюк.

ПЫХНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Хутка пабегчы [знікнуць]. *Як пыхнуў ён ціраз прасла, дык*

*толькі яго і бачылі.* Гарадзецкая Краснап. *Дзеўка пыхнула — і німа.* Парадзіна Мсцісл. 2. Пачырванець. *Як скызалі яму пры яго дзялы, дык ён аж пыхнуў ад сораму.* Палуж Краснап.

ПЫХЫВА́НЬНЯ, -я, *н.* Пахаванне. *Пысля пыхываньня мірцывякоў спрыўляюць помінкі.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫХЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Пахаваць. *Як прыдзіцца пыкынаць, дык некыму пыхываць.* Брылёўка Краснап.

ПЫХЫДЗЯ́КА, -і, *м.* 1. Жабрак. *Бедный пыхыдзяка зайшоў к нам, дык мама дыла яму хлеба.* Хвёдараўка Краснап. 2. Бадзяга. *Пыхыдзяка нейкій пыявіўсь, пывалока, штоб чаго ні ўкраў.* Там жа.

ПЫХЫЖА́ЛЫЙ, *прым.* Хаджалы, бывалы чалавек. *Ён чылавек пыхыжалый, усё жыцьцё ў дарогі — ён увесь сьвет аб'езьдзіў.* Арцёмаўка Міласл. *Етый чылавек па сьвету пыхыжалый, нічога не баіцца.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫХЫЗЯ́ЙІНІЧЫЦЬ, *дзеясл.* Пагаспадарыць. *Мне ўжо раз дывялось пыхызяйнічыць, дык я знаю, што значыць быць хызяіным.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫЦАЛУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Пацалавацца. *Дывай ужо ны астаньні пыцалуемся.* Пірагова Мсцісл.

ПЫЦА́Н, -а, *м.* Тоўсты чалавек. *Што яму, пыцану етыму, атходзіць, яго за лоем ні прыбярэш.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫЦА́ПЫЦЦА, *дзеясл.* Памацаць. *Пыцапыйся за дошку, як шыстаецца.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫЦІГА́ЦЦА, *дзеясл.* Пацягвацца. *Прашнуўся я і пычаў зівацъ і пыцігацца, што аж у суставах захрусьцела.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫЦІРА́ЦЬ, *дзеясл.* Згубіць, страціць. *Я свой ножык-цыганчык пыціраў.* Брылёўка Краснап. *Мы ехылі і дарогу пыціралі.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫЦЬ, -я, *м.* Лапаць. *Рыстыптаўсь мой пыць, верна, двору ні дайду.* Новае Сяло Мсцісл.

ПЫЦЯ́ГВЫЦЬ, *дзеясл.* Пацягваць, піць патроху. *Сеў лі пяньчука і пыцягвыя мылако пряма з бутэлькі.* Восаў Краснап.

ПЫЦЯГНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Пацягнуцца. *Пыцягнуўся, ажнуць гылыва зыбалела.* Зяціна Мсцісл.

ПЫЦЯГНУ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Пацягнуць. *Пыцягнулі дохлыга кыня ны канішча.* Нова Ельня Краснап. *Ішоў два дні ня еўшы, дык так абясьсіліў, што ні магу ног пыцягнуць.* Арцёмаўка Міласл. *Штоб ніхто не залез у сад, мы па версі агарожы ішчэ кылючым дротым пыцягнулі.* Ушакі Чэрык. 2. Пайсці. *Хлапец згадзіў трошку, а тады пыцягнуў двору.* Палуж Краснап. *Пыцягнім, хлопцы, ды двара.* Хвёдараўка Краснап. 3. Выцяць. *Пыцягнуў яго па сьпіне разы два, дык і завыў.* Там жа.

ПЫЦЯПЛЕ́Й, *прысл.* Цяплей. *Нырпятувыйсь пыцяплей, ато дужа сьцюдзёныя надвор'я сяньні.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫЦЯЧЫ́ [пацёч], *дзеясл.* Пацячы. *Яны пакуль пабедуюць, дык пы стале пуцікі пыцякуць.* Кокатава Мсцісл.

ПЫЧАРНЕ́ЎШЫЙ, *прым.* Пачарнелы. *Мост у нас такей пычарнеўшый, што яго цяпер зы два дні ні адмыіш.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫЧАРНЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Пачарнець. *І цела 'т нягоды пычарнела.* Маластоўка Краснап.

ПЫЧАСТУ́НЫК, -нка, *м.* Пачастунак. *Цётка зызвала двору і пычастункый ныдывала, во сколькі, глядзі.* Палуж Краснап.

ПЫЧА́ТЫК, -тка, *м.* Пачатак. *Пычатык песьні харошый, а канец нікуды ня годзін.* Арцёмаўка Міласл. *Спычатку памкнуўся іці ў адзін бок, а тады пашоў нызад.* Сохана Мсцісл.

ПЫЧА́ЦЦА, *дзеясл.* Пачацца. *Скора пычануцца месічныя ночы — мыладзік ужу ныстаў.* Касперка Міласл. *Пычаліся дажджлівыя дні.* Горкі Краснап.

ПЫЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Пачаць. *Я злымаў летысь нагу ў млыну і з таго часу пычаў калдыбаць.* Лешчынка Мсцісл. *Зоська з Ганный пычалі ціха гывырыць, а потым дывай аскірзацца.* Старае Сяло Мсцісл.

ПЫЧВЯ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Пажаваць. *Калі б ён ні пpішоў у хату, дык абізацільна яму нада пычвякыць сухога хлеба.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫЧЫНА́ЛЬНІЦА, -ы, *ж.* Пачынальніца. *Дзеўкі, дывайце пець песьні, дзе ваша пычынальніца — ніхай пычынаіць.* Малюшын Краснап.

ПЫЧЫНА́ЦЦА, *дзеясл.* Пачынацца. *Вісна пычынаіцца у марці месіцы — маріц першы месяц вясны.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫЧЫНА́ЦЬ, *дзеясл.* Пачынаць. *Дывай, будзем пычынаць мылаціць.* Канахоўка Клім. *Німаведыма што дзелыць — ці пычынаць касіць, ці пыдыжджаць.* Арцёмаўка Міласл.

ПЫЧЫРВАНЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Пачырванець. *Дзяўчына пычырванела ад стыду.* Залесавічы Крыч. *Парэчкі ў садзе ужу пычырванелі — пасьпеюць скора.* Куляшоўка Клім.

ПЫЧЫСА́ЦЬ, *дзеясл.* Пачасаць. *Пыдай-ка мне грібянец, нада гылаву пычысаць.* Бяседавічы Хоцім.

ПЫШАНІ́ЦА, -ы, *ж.* Пшаніца. *Жжалі жыта, а січас пыра і пышаніцу жаць.* Васілеўка Хоцім.

ПЫШАНІ́ШНЫЙ, *прым.* Пшанічны. *Елі пышанішны хлеб.* Чыгрынаўка Раснян. *Дадому, госьцікі, дадому, ‖ Паелі конікі салому, ‖ Пышанішную аторю.* З нар. песні, М. Г. 37.

ПЫ́ШКА, -і, *ж.* Пышка, пампушка. *Мука белыя, дык і пышкі вышлі добрыя на выгляд і смашныя-тыкі.* Тур'я Чэрык.

ПЫШКРА́БЫЦЬ, *дзеясл.* Паскрэбаць [падрапаць]. *Нывалілысь ны яго нуда, усё цела пышкрабый.* Канічы Касцюк.

ПЫШКУМА́ЦІЦЬ, *дзеясл.* Пашкумаціць, разарваць на шматкі [пашматаваць]. *Скора ты свой пінжак пышкумаціў, пряма ны кускі.* Канічы Касцюк.

ПЫШКЫДЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Пашкадаваць. *Якей ён сын — бацькі родныга ні пышкыдывай.* Парадзіна Мсцісл.

ПЫ́ШНЫЙ, *прым.* Горды, надзьмуты [пыхлівы]. *Якей ты пышный стаў — ні падыйсьці ды цябе, ні зыгыварыць ні пытрапіш.* Хвёдараўка Краснап.

ПЫШЧА́СЬЦІЦЦА, *дзеясл.* Пашчасціцца. *Бацьку пышчасьцілыся ныпасьці на добрыга купца і сходна прыдаць пяньку.* Палуж Краснап.

ПЫШЧЫКАТУ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Патынкаваць. *Нада зьвёскі прывезьць, хату думаю пышчыкатурыць, цяплей будзець.* Новы Дзедзін Мілaсл.

ПЫШЧЫКЛЫТА́ЦЬ [пышчыкыта́ць], *дзеясл.* Паказытаць. *Пышчаклыталі хлопца: спірьва ён дужа сьміяўсь, а пысьля стаў крічаць і плакыць — шчакоткі баіцца.* Трубільня Краснап.

ПЫШЫНЦЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Пашанцаваць, пашчасціць. *Яму пышынцывала — знайшоў кашэль з грашмі.* Парадзіна Мсцісл. *Пышынцывала ў дарозі — пылавіну ехыў з кумым.* Слаўнае Мсцісл.

ПЫШЫПТА́ЦЬ, *дзеясл.* Пашаптаць. *Трэба пышыптаць ат наўроку.* Нова-Ельня Краснап. *Вогнік нада вуглём абвесьць ды пышыптаць, як мяне вучыла бабчыха, дык пройдзіць.* Касперка Мілaсл.

ПЫШЫРПА́ЦЬ, *дзеясл.* Пашарпаць, падраць. *Ты ўжо сваю сарочку пышырпаў.* Канічы Касцюк.

ПЫЯВІ́ЦЦА, *дзеясл.* З'явіцца. *Месік на небе толькі што пыявіўся.* Усцінавічы Краснап. *Ваня! Ужо галубіняткі ў катуху пыявілісь.* Новыя Капачы Мсцісл.

ПЫЯ́ГЛІЦЦА, *дзеясл.* Паквапіцца. *Ня думай, што хто-небудзь пыягліцца ны такога кыня — ета ж скура адна.* Сохана Мсцісл. *Пыяглійся ны такоя дабро, ня мог знайсьці лепшый дзяўчыны.* Глупікі Крыч.

ПЫЯДЗІ́НКА, -і, *ж.* Паядынак, змаганне. *Выйшлі хлопцы на пыядзінку — хто скарей піряплывець ряку.* Касперка Мілaсл.

ПЫЯДУ́ХА, -і, *ж.* Яда. *Ну й пыядухі было ны вясельлі.* Палуж Краснап. *Як лета — дык новыя пыядуха — грібы.* Парадзіна Мсцісл.

ПЫЯСО́К, -ска, *м.* Паясок. *Пыдпіражы пысок. Які прыгожы ў цябе пыясок.* Мацутаўка Расиян. *Апераж ам мы цябе зылатым пыяском.* Пірагова Мсцісл.

ПЫЯ́УКА, -і, *ж.* Вынік [з'яўленне]. *За дзень выкыпылі калодзісь у трі сажні глыбіні, а пыяўкі німа — вады й ні чуваць.* Касцюковічы.

ПЭ́КНУЦЬ, *дзеясл.* Выцяць злёгку [пляснуць]. *Я яго ня біў, а толькі пэкнуў па мордзі.* Маластоўка Краснап.

ПЭ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Біць не вельмі моцна [пляскаць]. *Хіба ён б'е, ён толькі так, пэкыіць па мордзі.* Маластоўка Краснап.

ПЭ́НЗАЛЬ, -я, *м.* Пэндзаль. *Трэба бяліць столь, але німа пэндзыля.* Вярбоўка Расиян.

ПЭНСО́ВЫЙ, *прым.* Тлустачырвоны. *Такіх чырвоных губ я йшчэ ні бачыў, ну прама пэнсовыя!* Ушакі Чэрык.

ПЭ́РКЫЛЬ, -ю, *м.* Паркаль. *Дзяўчына купіла пэркалю на хустку.* Лапаціна Мсцісл. *Пэркыль толькі і йдзець на исподнія бяльлё.* Слаўнае Мсцісл.

ПЭ́УНА, *прысл.* Пэўна. *Ета я пэўна ведаю.* Сохана Мсцісл. *Пэўна што на тым тыдні пычанець сьнег таіць.* Мацутаўка Расиян.

ПЭ́УНЫЙ, *прым.* Пэўны. *Маріц яшчэ ня пэўны вясновы месіць — у ім яшчэ бываюць мыразы.* Гібалы Касцюк.

ПЭ́ЦКАЛЬ, -я, *м.* Пэцкаль, дрэнны майстар. *Ці ж ета кываль? Ета пэцкаль, ён табе нічога па-люцку ні зьдзелыіць.* Канахоўка Клім.

ПЭ́ЦКАЦЬ, *дзеясл.* Пэцкаць. *Чаго ты выляісься пы зямлі — толькі адзежу пэцкаіш.* Старае Сяло Мсцісл.

ПЯВУ́Н, -а, *м.* [Спявак], пявун. *Мыкарь — пявун зьвесный: ён пець любіць і ўсягды зь дзеўкымі пяець.* Клясін Краснап.

ПЯВУ́НЬНЯ, -і, *ж.* Пявуння, спявачка. *Матруна наша ой якая пявуньня: як зыпяець, дык люба слухаць.* Маластоўка Краснап.

ПЯ́КНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Выцяць [ляпнуць]. *Як пякнуў яго бульбінай, дык ён аж ойкнуў.* Парадзіна Мсцісл. 2. Упасці. *Пякнуў на зямлю крындаш.* Хвёдараўка Краснап.

ПЯ́КНУЦЦА, *дзеясл.* Упасці [ляпнуцца аб зямлю]. *Дзіцёнык як пякнуўсь з печы, дык ніжывога пыднялі.* Парадзіна Мсцісл.

ПЯКО́ЛКА, -і, *ж.* Гзымс над печкаю, меса, дзе кладуць запалкі. *Сьпічкі ны пяколцы ліжаць.* Тэкліна Шумяц.

ПЯКО́ЛЫК, -лка, *м.* 1. Пяколак. *Пыкладзі сірнякі ны пяколык.* Хвёдараўка Краснап. *Вазьмі ны пяколку сьпічкі.* Дубеец Касцюк. 2. Пячурка ў сцяне печы. *Пылажы яблыка ў пяколык, ніхай аттаніць, ато яно мёрзла і есьці нільзя.* Канічы Касцюк.

ПЯКО́ТА, -ы, *ж.* Спёка, сухмень. *Ат такія пякоты ажно гылыва баліць і працываць на полі цяжка.* Сохана Мсцісл. *Каторый дзень стаіць тыкая пякота, што на полі няможна трываць.* Сохана Мсцісл.

ПЯКО́ТКА, -і, *ж.* Пякотка, пячайка. *Мяне сяньні цельны дзень пякотка пячэць.* Глупікі Крыч. *Алі ж тыкая пыкотка ад гуркоў — як жару хто ў сярэдзіну насыпаў.* Парадзіна Мсцісл. *Сяньні мяне целый дзень мучыць пякотка.* Бяседавічы Хоцім.

ПЯКУ́Н, -а, *м.* Пякун, пякучы. *Сяньні мароз-пякун: верна, градусыў дваццыць будзіць.* Маластоўка Краснап.

ПЯКЦІ́СЬ, *дзеясл.* Пячыся. *Усадзіла пірагі — ці будуць яны пякцісь ці не? Нешта печ ні ныпалілась.* Пацкава Мсцісл.

ПЯКУ́ЧКА, -і, *ж.* Пякотка, пячайка. *Як толькі зьем кіслыя яблыка, так пычынаіць пякучка пячы.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПЯ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Пукаць, падаць. *Яблыкі пякыюць ны зямлю.* Палуж Краснап.

ПЯЛЕ́ГЫВЫНЫЙ, *прым.* Пялегаваны, пешчаны. *Пялегывыныя дзеўка — абы чаго есьць ні будзіць.* Палуж Краснап.

ПЯЛЕ́ГЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Пялегавацъ, залішне ўдзяляць увагі, дастаўляць усё. *Адзін у іх сын, дык пялегыюць яго — штоб муха, ны яго, крый бог, ні села, аммахываюць.* Хвёдараўка Краснап.

ПЯЛЕСКАЦЬ, *дзеясл.* Паласкаць, пялёхаць. *Трэба іціць на речку пялескаць анучкі.* Канічы Касцюк.

П'Я́НІЦА, -ы, *м.* П'яніца. *П'яніца ён вікавешный, яго ўжу нічым ні ўдзяржыш, ён і памрэць калі-небудзь ат гарелкі.* Арцёмаўка Міласл. *Аддыла мяне маці за горкыю п'яніцу.* Канахоўка Клім.

П'Я́НЫЙ, *прым.* П'яны. *Нізьвініце мяне, кумочкі, што я сяньні п'яный.* Слаўнае Мсціcл. *Абрыдла мне слухаць лаянку п'яных.* Сохана Мсціcл.

ПЯНЬКА, -і, *ж.* Пянька. *Пянькі зусім мала, адна сувылка.* Парадзіна Мсціcл. *Мяліца ніспраўныя — псуіць пяньку.* Янаўка Мсціcл.

ПЯНЬКО́ВІШЧА, -а, *н.* Месца, дзе мочаць каноплі. *Зывязі ты сяньні пяньку ны пяньковішча, нада ўжо нымачыць.* Хвёдараўка Краснап.

ПЯНЬКО́ВЫЙ, *прым.* Пяньковы, зроблены з пянькі. *Цяперь во пышла мода ременныя гужы дзелыць, дайней бывала, дык толькі пяньковыя, і езьдзілі.* Бяседавічы Хоцім.

ПЯНЬКУ́ЧЫШЧА, -а, *н.* Месца, дзе мочаць каноплі. *Пойныя пянькучышча пянькі ныклалі, аж гнеты ні топяць яе.* Бардзіч Краснап.

ПЯРВУ́СЬЦІНКА, -і, *ж.* Карова, што першы раз ацялілася. *Ета карова пярвусьцінка: першым целім сёліта.* Восаў Крыч.

ПЯРДЗІНА, -ы, *ж. бат.* Грыб. *Ні бяры етый грыб. Ета пярдзіна, ён — як атрава.* Хвёдараўка Краснап.

ПЯРЕ́ВІСЛА, -а, *н.* Перавясла. *Ты луччы круці пяревісла, штоб ні разьехылісь снапы.* Восаў Краснап.

ПЯРЕ́ДНІЙ, *прым.* Пярэдні. *У калёсых заднія каткі большыя, чым пяреднія.* Парадзіна Мсціcл.

ПЯРЕ́ДНЯ, -і, *ж.* Передня, тоўстая вяроўка, якая завязваецца за рубель з пярэдняй часткі воза. *Пяредня ў цябе ужу старыя, глядзі — парьвецца, і гнёт пыляціць цірязь воз.* Палуж Краснап.

ПЯРЕ́КЛІЦЬ, -і, *ж.* Ганак у клеці. *Ні бярі ключа ат клеці, хамуты ліжаць ны пярекліці.* Арцёмаўка Міласл.

ПЯРО́, -а, *н.* Пяро. *Пяро маё ўжо сапсывалыся — ня пішыць.* Шарэйкі Касцюк.

ПЯРЬСЬЦЁНЫК, -нка, *м.* Пярсцёнак. *Дай мне свой пярьсьцёнык, ён ікрас мне ны паліц.* Ушакі Чэрык. *Якій красівый пярьсьцёнык у Мар'і ны руке.* Канічы Касцюк. *Хлопіц зьняў у дзяўчыны з пальца сярэбрыный пярьсьцёнык.* Сохана Мсціcл.

ПЯРЬСЬЦЁНЫЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад пярьсьцёнык. *Зылатэй пярьсьцёнычык на руку надзелі — рыспрішчайсь з дзявоцкый волій.* Дзянісавічы Навазыбк.

ПЯРСЬЦІ́СТЫЙ, *прым.* З шырокімі персямі, грудзямі. *Шурокія персьці ў кыня — пярсьцістэй конь.* Хвёдараўка Краснап.

ПЯРУ́Н, -а, *м.* Пярун. *Пярун разьбій дрэва.* Вярбоўка Раснян. *У Хвядоса пярун спаліў гумно з дабром.* Лешчынка Мсціcл. *Я надта баюся мыладні і пяруна.* Іванаўка Хоцім.

ПЯРЫ́НКА, -і, *ж.* Пярынка, перына птушкі. *Птушка сьскінула дужа прыгожую пярынку.* Маластоўка Краснап.

ПЯРЭ́ВЫЛЫМ, *прысл.* Наўскач, галопам. *Конь сьпірша бег трюшком, а затым пабег пярэвылым.* Хвёдараўка Краснап.

ПЯРЭ́ДНІЙ, *прым.* Пярэдні. *Пярэднія вось скора зломіцца. Пярэдні каток зьлымаўся.* Ташна Клім.

ПЯРЭ́ДНІК, -а, *м.* Фартух. *Ад майго пярэдніка адырваўся матуз.* Камароўка Крыч.

ПЯРЭ́ДНЯ, -і, *ж.* 1. Першы ад уваходу пакой у доме. *У іх дом бальшэй; увайшоўшы — пярэдня, а там сталовыя, спальня і зал.* Арцёмаўка Міласл. 2. Пярэдняя частка спадніцы, што закрываецца хвартухом — яна можа быць з іншае матэрыі. *У спадніцы альляныя пярэдня.* Машавая Бялынкав. 3. Разрэз сарочкі напярэдзе. *У маёй сарочцы вышываныя пярэдня.* Бяседавічы Хоцім.

ПЯРЭ́ДЫШНІЙ, *прым.* Папярэдні. *Пярэдышній конь, што мы глядзелі, быў луччы, здаецца.* Палуж Краснап.

ПЯРЭ́КЛІЦЬЦЯ, -я, *н.* Ганак каля клеці. *Юрка зьлез ны пярэкліцьця ды зваліўсь аттуль.* Камароўка Крыч. *Пылажы хамуты ны пярэкліцьця.* Вітрунь Касцюк.

ПЯРЭ́ЧЫНЬНЯ, -я, *н.* Супярэчнасць. *Зыўсяды ў гэтыга чылавека было пярэчыньня між словам і дзелам: калі скажыць, што зробіць добра, ты чыкай, што зробіць дрэнна.* Ушакі Чэрык.

ПЯСКЛЁНЫК, -нка, *м.* Куранё. *Пясклёнык цыгаець, матку згубіўшы.* Забалоцце Аршан.

ПЯСО́К, пяску, *м.* Пясок. *Дзецім абы пясок, дык яны будуць бавіцца.* Куляшоўка Клім. *Сёліта наплыў вялікі на лузі, дык косы скора тупяцца ад пяску.* Барысавічы Клім. *Трэба пяску пасыпаць ны каўзель, ато дзеці голывы пырызьбіваюць.* Шарэйкі Касцюк.

ПЯСО́ЧЫК, -чку, *м.* Памянш. ад пясок. *Жоўценькі пясочык на дне ручая, і рыбкі відна, як плаваюць.* Куляшоўка Клім. *Тут німа пясочку, а 'дна твань.* Маластоўка Краснап.

ПЯСТО́ТА, -ы, *ж.* Пястота, пешчанне. *Вот ужу пястота яму була у маткі: кукобіла ужу луччы німа куды.* Арцёмаўка Міласл.

ПЯСЬЦЁПА, -ы, *ж.* Пястун, пястуння. *Твая дычка пясьцёпа.* Хоцімск.

ПЯ́ТКА, -і, *ж.* Пятка, запятак. *Лапыць гатоў, толькі застаецца пятку зыківірзаць.* Хвёдараўка Краснап.

ПЯ́ТНІК, -а, *м.* 1. Вушак, да каторага прыладжваюцца дзверы завесамі. *А ніхай цябе, так стукнуў, што дзьверы з пятніка ледзь ня выліцілі.* Хвёдараўка Краснап. 2. Наогул вушак. *Ударыўся гылавою аб пятнік.* Машавая Бялынкав.

ПЯТО́К, пітка, *м.* Пяць. *На сьніданьня я пяток яец зьеў.* Палуж Краснап. *Да Вяр-*

*боўкі адцюль вярстоў з пяток будзя.* Пухнава Раснян.

ПЯТРОК, -а, *м.* Уласнае імя Пятро. *Пятрок, укруці ў лямпі кнот, ато дужа вялікі агонь.* Гібалы Касцюк.

ПЯТРУСЬ, -я, *м.* Уласнае імя Пятро. *Пятрусь, схадзі ў гумно зы аторай.* Расна. *Надысь я бачыў Пятруся, і ён казаў, што заўтрі едзіць у Крычаў.* Глупікі Крыч.

ПЯТРЫ, -аў, *мн. л.* Цапкі, столь у асеці з жэрдак, на якую кладуцца снапы для сушкі. *Рассунь там пятры, будзім садзіць снапы.* Брылёўка Краснап. *Трэба пачыніць пятры ў еўні, ато снапы рызвальваюцца.* Маластоўка Краснап.

ПЯТУХА, -і, *ж.* Пяць шурак дроў. *Пятуху дроў вывіз на еты тыдзінь.* Хвёдараўка Краснап.

П'ЯЎКА, -і, *ж. заал.* П'яўка. *Пыстыяў у балоці, дык яму п'яўкі ў ногі паўпівалісь — ледзь патрывай.* Парадзіна Мсцісл.

ПЯХЦЕР, -а, *м.* Пяхцер, вяровачная сетка, у якую кладуць сена, калі едуць у дарогу. *Наткні ў пяхцер сена, штоб хапіла ны дарогу.* Пухнава Раснян. *Бацька зьбіраўся ў дарогу, а Ягор набіваў у пяхцер сена.* Гібалы Касцюк. *Наткні пяхцерь сенам, каб ладна было сядзець ны калёсах.* Слаўнае Мсцісл.

ПЯЦЕРНІ, -яў, *мн. л.* Тканіна ў пяць нітоў. *Выткыла сабе пяцерні, цяпер нарежу рушнікоў і буду вышываць.* Слаўнае Мсцісл.

ПЯЦЬ, -і, *ліч.* Пяць. *Я сяньні змытала на мытавіла пяць ручаік.* Буліна Касцюк. *Пяць нізык цыбулі нанізала.* Хвёдараўка Краснап. *Усіх іх была пяць.* Хоцімск.

ПЯЧКУР, -а, *м.* Пячнік, майстар класці печкі. *Ён пячкур добры: печку кладзе — век прастоіць і грэіць ладна.* Старае Сяло Мсцісл. *Пячкур склаў печку.* Хвёдараўка Краснап. *Сяньні пячкуры прыдуць класьць печку.* Людагошч Краснап.

ПЯЧОНКІ, -аў і -нак, *мн. л.* Печань, печані. *Як гракнуў яго 'б зямлю, дык пячонкі 'тсадзіў.* Хвёдараўка Краснап. *Цілячыя пячонкі нада пыдсмажыць.* Слаўнае Мсцісл.

ПЯЧУРА, -ы, *ж.* Пячура, нара. *У лясу ёсьць лісіцына пячура.* Слаўнае Мсцісл. *Рак вылез з пячуры.* Гібалы Касцюк.

ПЯЧУРКА, -і, *ж.* 1. Памянш. ад пячура. *Учора я купаўся і пыймаў у пячуркі ля берыга мянька.* Гібалы Касцюк. 2. Пячурка, ямка ў сцяне печы. *Зыграбі ты, дзеўка, жар у пячурку.* Краснаручча Раснян. *Запалкі пыклалі ў пячурку, каб высахлі.* Смольская Буда Бялынкав.

ПЯЧЫЦЬ, *дзеясл.* Пячы. *Рызьвялі мы цяпло на полі ды дывай бульбу пячыць.* Ушакі Чэрык.

ПЯЧЭНЬНЯ, -я, *н.* 1. Што-небудзь печанае, смажанае. *Нагытывыла гысьцям смажыныга пячэньня.* Сохана Мсцісл. 2. Пячонкі, вантробы. *Зьляцеў з дрэва і ўсё сабе пячэньня адбіў.* Гібалы Касцюк.

ПЯШКОМ, *прысл.* Пяшком, пешкі, пехатою. *Пяшком ды станцыі дайдзем, а там паедзем.* Мсціслаў.

ПЯШЧАНКА, -і, *ж.* Вядро з пяском і вадою для касцоў касу мянціць. *Я забыўся ўзяць пяшчанкі, і касы нечым пывастрыць.* Зяціна Мсцісл. *Пыстаў пяшчанку ў цянёк, ато за дзінь выда высахнець.* Горкі Краснап.

ПЯЮЧЫЙ, *прым.* Пявучы. *Пяючыя дзеўка: дзе ні йдзе, усё пяець.* Ушакі Чэрык.

# Р

РАБІНА, -ы, *ж. бат.* Рабіна, верабіна. *У лесі рабіна пасьпіваець.* Вербеж Чэрык. *Прыгожыя ягыды рабіны: красныя і растуць цэлымі букетамі, толькі горкія.* Пірагова Мсцісл.

РАБІНАВАЯ НОЧ. Ноч, у якую свеціць маланка без хмары і грымот. *Бліскавіца блішчыць, верна, будзіць рабінавыя ноч.* Куркаўшчына Мсцісл.

РАБІНАВЫЙ, *прым.* Рабінавы. *Рабінавыя лісьця вузінькія зубчастыя і расьцець елычкый.* Глінь Касцюк. *Я вырызаў сабе рабінавую палку.* Ганнаўка Клім.

РАБІЦЦА, *дзеясл.* Рабіцца. *Што й на сьвеці робіцца? Распуста пышла, што крый бог.* Маластоўка Бялынкав. *Цагліна робіцца на цагельні.* Лапаціна Мсцісл.

РАБІЦЬ, *дзеясл.* Рабіць, працаваць. *Як настаніць раньня, дык яна робіць і робіць — мінуты ні атдыхаець.* Ушакі Чэрык. *Ён жа мыладэй, ніхлімяжый, нічога ня ўмея рабіць.* Дарагая Крыч. *Галовухна мыя бедныя, а што ж я рабіць буду!* Зоры Чэрык. *Без ведыма майго нічога ні рабіця.* Канічы Касцюк.

РАБОТА, -ы, *ж.* Работа. *Нешта ў цябе, хлопіц, марудна работа йдзець.* Дубеец Касцюк. *Ты не глядзі, што гэты конь нявідный, а ён добры конь і да корму і ды работы.* Пячонкі Раснян. *Не найду я пы сабе работы, а ад бязьдзельля дужа тошна.* Слаўнае Мсцісл.

РАБОТНІК, -а, *м.* Парабак, працаўнік. *У іх работнік, яны кажын год нынімаюць — самі ні спрыўляюцца. Ён жа такей работнік — што ні возьміць дзелыць, дык у рукax гарыць.* Арцёмаўка Міласл.

РАБОТЫЦЬ, *дзеясл.* Рабіць, працаваць. *Вялікі мне анціpec дырма табе работыць.* Слаўнае Мсцісл. *Там верный чарвоніц будзіць за тры дні, ідзём туды работыць.* Бяседавічы Хоцім. *Дзеўка хоць ніпазорна, а работыць умея.* Казельская Буда Краснап. *Іх два браты і абодвы ны зямлі работыюць.* Старае Сяло Мсцісл.

РАБЫЙ, *прым.* Рабы. *Асьпянае ліцо, рабае ад воспы.* Пірагова Мсцісл. *Дзеўка харошыя, толькі адна зыгана — рабыя.* Бардзіч Краснап.

РАВЕСЬНІК, -а, *м.* Раўеснік. *Твой Пятрок маёй Матруні равесьнік: яны ў адзін*

*год і ны адной нядзелі радзіліся.* Гарбавічы Касцюк.

РАВЕ́ЦЬ [ро́ўсьць], *дзеясл.* Раўці. *Целую ноч страшэнная бура равела.* Хоцімск.

РАВО́К, раўка́, *м.* Раўчак, роў. *Аб'іжджай туды, тут равок — ні піряедзіш.* Ляхі Чэрык. *У дождж выда зьбіраецца ў равок і бягіць у рэчку.* Бяседавічы Хоцім. *Гыняйце скаціну ў равок, там заціішней будзе. Нільзя, бо 'д дажджу выда ў раўку.* Ляхі Чэрык.

РАГАЗА́, -ы, *ж.* Рагаза, беспарадак. *У хаці ў нас цэлыя рагыза: усякыга ламачча панацігалі.* Барысавічы Клім. *Выкінь гэту рагазу і ўся рахуба.* Бабынічы Мсцісл.

РАГО́ЖАНКІ, -аў, *мн. л.* Санкі [са спінкаю] для легкавой язды. *Зыпрягі рагожанкі, паедзім у Клімавічы на кірмаш.* Барысавічы Клім.

РАГУ́ЛЬКА, -і, *ж.* [Рагач], укапаная ў зямлю верхавіна сасны з сукамі, на якія насаджваюць для прасушкі посуд. *Павесь вядро ны рагульку, ніхай прасохніць.* Залесавічы Крыч.

РА́ДА, -ы, *ж.* 1. Парада. *У нас сяньні будзіць рада атнасіцільна прывядзеньня празьніка.* Канічы Касцюк. 2. Дапамога. *Зыпікла пічыя, што і рады ні даць.* Парадзіна Мсцісл. *Як пычаў мой конь артачыцца, дык проста нічога ня зьдзелыць: я яго і біў, і чаго ня дзелыў, а няма рады.* Пірагова Мсцісл.

РА́ДЫЙ, *прым.* Рады. *Я ўвайшоў у тую пішнушку ды ні рад: там тыкая куламеса, што біда.* Мсціслаў. *Рад бы я адцюля ўвыйці.* Усцінавічы Краснап. *Чуіш, як гусі гагыюць; знаць рады, што ліцяць у цёплы край.* Горня Хоцім.

РАДЗЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Спрыяць. *Ты нам не радзеіш, а ўсё к свайму боку горніш.* Гібалы Касцюк.

РАДЗІ́ВЫЙ, *прым.* Дбалы, заботлівы. *Які ты радзівы, усё ўкрываіш мяне — баісься, каб ні зьмерзла.* Ушакі Чэрык.

РАДЗІ́МА, -ы, *ж.* Радня [родзічы]. *Сыбралыся ў мяне уся мыя радзіма.* Зяціца Мсцісл.

РАДЗІ́МІЦ, -мца, *м.* Радзімец (хвароба). *А радзіміц цябе ведаець, дзе ты цэлый дзень бегыіш.* Тульдава Раснян. *Калі б яе радзіміц забіў, бабу ету, як іна мне ныдаела.* Арцёмаўка Міласл. *Ат етыга радзімца ня 'тхрысьціся, ня 'тмолісься.* Палуж Краснап.

РАДЗІ́МЫЙ, *м.* Родны. *Радзімы ты мой, дай хлеба!* Хоцімск.

РАДЗІ́НА, -ы, *ж.* Радня [родзічы], сваякі. *Звала мяне к сабе мыя радзіна.* Канічы Касцюк. *Уся радзіна была ны вясельлі.* Бардзіч Краснап.

РА́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Радзіцца, раіцца. *Сіляне радзілісь, як бы зрабіць мост чіріз ряку.* Паходавічы Чэрык. *Радзілісь, радзілісь, што дзелыць зь зямлёй, так і разышлісь, ні да чога ня прышоўшы.* Гарманава Мсцісл.

РАДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Радзіцца, нарадзіцца. *Тут я радзіўсь, тут і паміраць буду — нікуды ні пайду ат'етуль.* Ушакі Чэрык.

РА́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Даваць параду. *Як ты мне радзіш, кума, ці аддываць зы яго дачку?* Барысавічы Клім. *Радзіў мне Янка не хадзіць туды, бо нічога ня выйдзе, кажа.* Пячонкі Раснян.

РАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Радзіць, нарадзіць. *Яна ў дзеўкых быйстрюка радзіла, дык і замуж цяпер ніхто яе ні бярэць.* Слаўнае Мсціcл. *У нас адна мыладуха двыйнят радзіла і абаі жывенькія і растуць абаі.* Арцёмаўка Міласл. *Ны нашый выгыры ўсягды стаіць выда, а таму і трыва там ладныя родзіць.* Слаўнае Мсціcл.

РАДНЯ́, -і, *ж.* Радня [родзічы], сваякі. *Іваніха мне блізкыя радня: ета ж мае цёткі дычка.* Затоны Раснян.

РАДО́ЎКА, -і, *ж.* 1. Чарга. *Німа чаго і гыманіць — твыя радоўка ехаць і зы цябе ніхто ні паедзіць.* Парадзіна Мсцісл. 2. Грыб. *Радоўкі растуць ужо.* Хвёдараўка Краснап.

РА́ДУВАНЬНЯ, -я, *н.* Радасць. *І колькі длі яго было радуваньня, калі мы зайшлі к яму — ні ведыў, як бы нам лепш угадзіць.* Ушакі Чэрык.

РА́ДУВАЦЦА, *дзеясл.* Радавацца. *Куды ні глянь, такі абшар, што аж сэрца радуіцца.* Ушакі Чэрык.

РА́ДУГА, -і, *ж.* Вясёлка. *Глянь, ікая красівыя радуга на небі, аж гарыць, такая ясныя.* Ушакі Чэрык.

РА́ДУНІЦА, -ы, *ж.* Памінальны тыдзень. *Радуніца падыходзіць, могілкі нада прыбіраць.* Мазалава Мсцісл. *Ны радыніцу трэба магілкі абцьвеціць.* Старае Сяло Мсцісл. *На радыніцу бываець атправа на магільніку.* Пірагова Мсціcл.

РА́ДУНІШНЫЙ, *прым.* Памінальны. *Перад радунішнай нядзеляй селяне парабілі на могілках церамкі.* Юшкавічы Раснян.

РАЁН, -у, *м.* Раён. *Наш раён першы выкынаў проднаалог.* Шамава Мсціcл.

РАЁНАВЫЙ, *прым.* Раённы. *Наш раёнавы выканаўчы камітэт правільна вядзе лінію беднаты.* Канічы Касцюк.

РАЖАСТВО́, -а, *н.* Каляды. *Куцьцю варуць на ражаство, на новы год і на крашчэньня.* Казельская Буда Краснап.

РА́ЖЫНКА, -і, *ж.* Пена ад масла. *Як жарыш масла, дык жыру німа, адна толькі ражынка.* Палуж Краснап.

РА́ЖКА, -і, *ж.* Ражка. *Налі шчолаку ў ражку, я пайду ў лазьню.* Казельская Буда Краснап. *Карова выпіла ражку пойла.* Барысавічы Клім. *Вынісі ты ражку з памыйкамі, ато ваніць у хаце.* Бабынічы Мсціcл.

РАЖО́Н, -жна, *м.* Ражон. *Гані сыбаку ражном з двыра.* Гібалы Касцюк.

РАЖСТВО́, -а, *н.* Каляды. *Етый год ражство было цёплыя.* Канічы Касцюк.

РАЖЭ́НЬНЯ, -я, *н. зборн.* Ражны. *Пыставіў тут усякыга паленьня-ражэньня, што і прайсьці няведыма як.* Палуж Краснап.

РАЗ, -у, *м.* Раз. *Зы такея дзялы варта было б патрэсці за чупрыну, але ніхай ужо так абыйдзецца на етый раз.* Зяціца Мсціcл. *Яна мне кожны раз насупраць дзелыіць.* Юшкавічы Раснян. *Дзіцёнык — мой будзёнік, ні разу ні засплюся.* Тур'я Краснап.

РАЗ, *злучн.* Калі. *Раз ня ўмеіш іграць, дык і брось брынкаць.* Касцюковічы.

РАЗАБРА́ЦЬ, *дзеясл.* Разабраць, зра-

зумець. *Кулдыячыць нешта і разабраць нільга.* Юркаўка Крыч.

РАЗАДРА́ЦЬ, *дзеясл.* Разадраць. *Раздраў усю рубаху, цяпер нада латаць.* Пірагова Мсцісл.

РА́ЗАМ, *прысл.* Разам, супольна [сумесна]. *Млын гэты — іх, абапольны, разам дзяржаць.* Пірагова Мсцісл. *Пыдажджы, пайдзем разам.* Тульдава Раснян.

РАЗБА́ІВАЦЬ, *дзеясл.* Весці размову. *Стаяць сабе там ды разбаіваюць.* Хоцімск.

РАЗБІ́ЦЦА, *дзеясл.* Разбіцца. *Наш кухлік упаў з палічкі і разбіўся.* Горлава Раснян. *Сподык ськінуўся з стыла і разьбіўсь.* Бродкі Крыч.

РАЗБІ́ЦЬ, *дзеясл.* Разбіць. *Ну й крэпкі лёд — ніяк ні разьбіць.* Забычанне Касцюк. *Дзеці разбілі макацёр.* Касцюковічы.

РАЗБО́Й, -ю, *м.* 1. Разбой. *Ета ж проста разбой: заступілі хлыпца ны дарогі і дывай яго біць.* Дубровіцы Клім. 2. Разбойнік. *Гэты хлопіц настаяшчы разбой, калі хочыш быць цэлым, дык ні чыпай яго.* Ушакі Чэрык.

РАЗБО́ЙНІК, -а, *м.* Разбойнік. *Разбойнікі ў лесе пыявілісь: учора Цімоха аграбілі нашчэнт.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Ня едзь ты цірaз гэты лес — разбойнікі там есьць, заб'юць яшчэ.* Ушакі Чэрык.

РАЗБРЕ́СЦА, *дзеясл.* Разысціся, распаўзціся. *Пільнуй статык: ні дывай ім разбресца, ато зайдуць у шкоду.* Дзянісавічы Навазыбк.

РАЗБРУ́ЗНУЦЬ, *дзеясл.* Распухнуць [набрыняць]. *Ныга мыя разбрузла, што ў бот ня лезіць.* Хвёдараўка Краснап. *Тры дні ў вадзе ліжаў — разбруз ужо і наверх усплыў.* Кокатава Мсцісл.

РАЗБРУ́ЗЬЦЬ, *дзеясл.* Распухнуць [набрыняць]. *Дысталі яго з ракі, яшчэ ні пасьпеў разбрузьць.* Хвёдараўка Краснап.

РАЗБРЭ́СЦА, *дзеясл.* Разысціся. *Стада можа па ўсім лузі разбрэсца — пільнуй.* Парадзіна Мсцісл.

РАЗБУ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Разбурыць. *Сяньні трэба зынящца ды разбурыць старую хату, ато пазьней некалі будзе.* Канічы Касцюк.

РАЗБУ́ЦІЦЬ, *дзеясл.* Распухнуць. *Тры дні ўжо, як ён заліўся — павінін разбуціць і ўсплыць негдзе.* Затоны Раснян.

РАЗБЭ́ХЫЦЬ, *дзеясл.* Разбіць. *Міску разбэхыла. Блюдзька разбэхыла.* Палуж Краснап.

РАЗВАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Разводзіць, пачынаць. *Што ты тут анцімонію разводзіш?* Хвёдараўка Краснап.

РАЗВАЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Разважаць. *Пакуль ты будзіш разважаць, ці купляць ці не, дык хто-нібудзь возьміць ды купіць.* Ушакі Чэрык.

РАЗВА́ЖЫВАЦЬ, *дзеясл.* Разважваць. *Купілі зы пяць пудоў, а як сталі разважываць, дык пітнацыць хунтуў ні хыпая. Сталі мы разважываць муку на пуды, каб была гатовыя.* Ушакі Чэрык.

РАЗВАЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Разваліцца, разбурыцца. *Наш комін разваліўся.* Зялёны Луг Мсцісл. *Пуня развалілась, паправіць нада — шулы новыя ўставіць.* Гарманава Краснап.

РАЗВАЛО́КА, -і, *ж.* Баранаванне. *Сколькі там было тае развалокі, а ты цэлый дзень там прамарудзіў.* Барысавічы Клім.

РАЗВО́ДЗЬДЗЯ, -я, *н.* Разводдзе, паводка. *Вялікае разводзьдзя сёліта — усю лучку пяском зынясе.* Зарэчча Мсцісл. *Сёліта сьнегу шмат — вясной будзіць вялікыя разводзьдзя.* Ушакі Чэрык.

РАЗГАВЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Разгавенне. *Ны разгавеньня ядуць спачатку асьвятчонае яечка.* Пірагова Мсцісл.

РАЗГАЛАШЭ́НЬНЯ, -я, *н.* Разгалашэнне. *Я ні чакаў такога разгалашэньня свайго сакрэту — мне ж ішчэ ні хацелась, каб пра гэта ўсі ведалі.* Ушакі Чэрык.

РАЗГАРЖЫВАЦЬ, *дзеясл.* Растрасаць, раскідаць. *Папрынесьлі яны вілы і пычалі разгаржываць нашу салому — шукалі бач нечыга.* Ушакі Чэрык.

РАЗГЛЕ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Разгледзець. *Заўсёды раньшы, чым купіць, трэба разгледзіць, што купляеш.* Канічы Касцюк.

РАЗГЛЯДА́ЦЬ, *дзеясл.* Разглядваць. *Чаго вы тут разглядаеце?* Хоцімск. *Ходзіць тут ды разглідае, а ўночы красьць прыдзе.* Трубільня Краснап.

РАЗГО́Н, -у, *м.* 1. Разгон. *У яго рабоці німа разгону.* Палуж Краснап. 2. Азарт. *З разгону усё прадуў.* Там жа.

РАЗГО́РЬТЫВЫНЬНЯ, -я, *н.* Разгортванне. *Прідзеш ды яе, дык іна пачнець пыказ, разгорьтывыньня ды склыданьня сваіх уборіў, аж ныдаесьць.* Ушакі Чэрык.

РАЗГО́ЎТАЦЦА, *дзеясл.* Разагнаць сон, прачнуцца. *Разгоўтаўся скарэй ды сьнедаць.* Куркаўшчына Мсцісл.

РАЗГРІ́М, -у, *м.* Разгром, непарадак. *У яе ў хаце дык проста ройла, разгрім, усё параськідана, што ні ўвайсьці.* Пірагова Мсцісл.

РАЗДА́УЛЕНЫЙ, *прым.* Раздушаны. *Ны яго ж гідка глядзець, як курапа раздаўленая.* Старае Сяло Мсцісл.

РАЗДРАЖНЁННЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Раздражненасць. *Раздражнённысьць твая міне пужаіць — ты спакойна нічога ня можаш слухаць.* Ушакі Чэрык.

РАЗДРАЖНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Раздражніць. *Рыздражнілі дзеці сыбаку, што і ны сваіх пычаў брыхаць.* Ушакі Чэрык.

РАЗДУ́ЖЖА, -а, *н.* Раздужжа, дуга, якая злучае ў санях побачні. *Раздужжа зламілыся ў санях.* Хвёдараўка Краснап. *У гэтых санях крэпкае раздужжа.* Ташна Клім. *Раздужжа зламалась, і развальні разьехылісь.* Аршаншчына.

РАЗДУ́МЫВАЦЬ, *дзеясл.* Думаць, меркаваць. *Ня стоіць міркуваць, бярі, калі даюць, ато ішчэ раздумываіць.* Слаўнае Мсцісл.

РАЗДУ́ТЫЙ, *прым.* [Раздуты], апухлы. *Етый дзядзька ўвесь раздутый, знаць, бальнэй дужа.* Брылёўка Краснап.

РАЗДУ́ЦЬ, *дзеясл.* Раздуць. *Засып пяском вогнішча, бо веціp можыць пыжар раздуць.* Канахоўка Клім.

РАЗЕ́ПА, -ы, *ж.* Разява. *Разёпа ты, разёпа, куды ты заехаў!* Кокатава Мсцісл.

РАЗЖЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Раздабыць, дастаць, пазычыць. *Разжыўся троху на грошы.* Хвёдараўка Краснап.

РАЗЖЭ́Н, -а, *м.* Разводнік або разводніца. *Яна жывець з разжэным.* Горкі Краснап.

РАЗ-ЗА-РА́ЗЫМ, *прысл.* Часта, адзін за адным. *Мыланка блішчыць раз-за-разым.* Затоны Раснян.

РАЗІ́НЬКІ, -аў, *мн. л.* Разявакі. *Што, разінькі прыдаеш пы бызару?* Канічы Касцюк.

РАЗІ́НЯ, -і, *м.* і *ж.* Разява. *Етый разіня нічога ні ўбіражэць.* Хвёдараўка Краснап. *Эй, разіня, чаго стаіш і варон ловіш, ступай ны работы!* Бяседавічы Хоцім. *Што за разіня наш Ляксей: з-пад рук мяшок з жытам укралі.* Міцькаўшчына Мсцісл.

РАЗКІДА́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Раскідацца. *У етых дзяцей хлеба больш разкідаіцца, чым яны зьядуць.* Ушакі Чэрык. 2. Распускацца. *Лес разкідаіцца. Верба разкідаіцца.* Іванаўка Хоцім.

РАЗЛАЖЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Раскласці. *Холыд быў. Разлажылі мы вогнішча сярод лесу і дывай грэцца.* Ушакі Чэрык. *На лузе хлопцы разлажылі цяпло.* Пожары Калінішчына.

РАЗЛАМА́ЦЦА, *дзеясл.* Разламацца, паламацца. *Сані разламаліся, а капыльля цэлы.* Баброва Расням. *У санях вязьзя разламалася.* Новыя Капачы Мсцісл. *Каток разламаўся, дык на восі прыехыў.* Пухнава Расням.

РАЗЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Разліцца. *Ныбрала вядро вады, а пачопка лопнула, і выда разлілась.* Пацкава Мсцісл.

РАЗЛО́МАНЫЙ, *прым.* Разламаны. *Разломаны каток выляецца ны дарозе.* Васілеўка Хоцім.

РАЗЛУЗНУ́ЦЬ, *дзеясл.* [Разлузаць], раскусіць. *Маеш, брат, крэпкія зубы — разлузнуў добра 'рех.* Хвёдараўка Краснап.

РАЗЛУ́КА, -і, *ж.* Вяргіня жоўтая. *У нас разлука дык цьвіцець ды самых марозаў.* Юшкавічы Расням.

РАЗМАГЛІ́ВАЦЬ, *дзеясл.* Размалёўваць, нафарбаваць. *І нада ж было ёй рызмыглівать так сваю морду.* Слаўнае Мсцісл.

РАЗМАЛЁВАНЫЙ, *прым.* Размаляваны. *Яго дом вунь той з размалёванымі ваконьніцамі.* Рылава Мсцісл.

РАЗМАЛО́ЦЦА, *дзеясл.* Размалоцца. *Еты ўтулак ужо размалоўся, нада новый уставіць.* Ташна Клім.

РАЗМІ́Н, -у, *м.* Размін, раз'езд. *Сяньні дужа бальшэй быў бызар, разміну ніяк ні було.* Канічы Касцюк.

РАЗМІНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Размінуцца, разыйсціся. *Хатка маленькая, нейдзе размінуцца, ляжаць яны там упакот.* Пірагова Мсцісл. *Зьехаліся у лесе і размінуцца нсяк.* Глупікі Крыч.

РАЗМО́ВА, -ы, *ж.* Размова. *Гэткай размовы я слухаць не хачу — усё пра адно гаворыць ды гаворыць.* Ушакі Чэрык. *Была ў мяне з ім размова наконта етыга, ды куды там — і слухаць ня хочыць.* Паходавічы Чэрык.

РАЗМО́ТКА, -і, *ж.* Варстат для размотвання маткоў. *Размотка круціцца туга, ніткі рвуцца.* Глупікі Крыч.

РАЗМО́УНЫЙ, *прым.* Гаваркі, разгаворлівы чалавек. *Палянь, які размоўны стаў наш сынок — раней дык усё мыўчаў!* Ушакі Чэрык.

РАЗМЫТАВІ́ЛА, -а, *н.* Размотка [матавіла]. *Унясі ў хату размытавіла, буду маткі разматываць.* Студзянец Касцюк.

РАЗНЕ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Разнесці. *Нявестка разнісла сваё дабро ў уховы па суседзях.* Сохана Мсцісл.

РАЗНІ́ЦА, -ы, *ж.* Разніца [бойня]. *Схадзі ў разніцу і прынясі ног і галоў, зварім студзінь.* Тур'я Чэрык. *Карову павялі ў разніцу.* Маляцічы Крыч.

РАЗНО́СІЦЬ [разнасіць], *дзеясл.* Разносіць. *Веставый пісьма разнося.* Хвёдараўка Краснап.

РАЗО́К, разка́, *м.* Засценак [кавалак зямлі, поля]. *Паеду сяньні разок араць.* Людагошч Мсцісл.

РАЗО́РА, -ы, *ж.* 1. Разарэнне. *Такую разору учынілі: пулумалі, пырыськідалі, што ні знайдзеш концоў-пычаткыў.* Клясін Краснап. 2. Няпэўнасць думак. *У мяне сяньні поўныя разора — ні знаю, ехыць мне ны бызар ці астывацца ў дваре.* Канічы Касцюк.

РАЗПАСА́ДЧЫЦЬ, *дзеясл.* Распусціць, патраціць. *Яму толькі дай грошы, дык хутка іх разпасадчыць.* Горкі.

РАЗ-ПО-РА́ЗУ, *прысл.* Раз за разам. *Раз-по-разу бегыя туды.* Тур'я Краснап.

РАЗРО́ЗЬНІВЫЦЬ, *дзеясл.* Адрозніваць. *Нечыга разрозьнівыць, усі ўмясьцёх будзім.* Маластоўка Краснап.

РАЗРУ́МЗЫЦЦА, *дзеясл.* Расплакацца. *Чаго ты разрумзылась нябітая? Як паб'юць, тады будзіш плакыць.* Сохана Мсцісл.

РАЗРЭ́ЗАЦЬ, *дзеясл.* Разрэзаць. *Ідзі ты к доктыру, ён табе етый выласень разрэжыць ды выцісьніць.* Касцюковічы.

РАЗСВАРЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Перасварыцца. *Былі мы з ім добрымі кумамі, а цяпер аткуміліся — разсварыліся.* Пірагова Мсцісл.

РАЗСО́ХНУЦЦА, *дзеясл.* Рассохнуцца. *Вобад разсохся, і спіцы павыіхалі.* Бяседавічы Хоцім.

РАЗСЫ́ПАЦЦА, *дзеясл.* Рассыпацца. *Васіль сяньні хваціў мяне за шыю, неяк пыдчапіў за нітку, пырвау, і ўсі кыралі разсыпаліcь.* Добрае Мсцісл.

РАЗТРАНЖЫ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Растранжырыць. *Разтранжырыў усі грошы, а путнага нічога ні зрабіў.* Куркаўшчына Мсцісл.

РАЗТРАПА́ЦЦА, *дзеясл.* Растрапацца. *Разтрапаліся ў цябе ўсі касніцы.* Юркаўка Крыч.

РАЗУМЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Разумець. *Ён мой адзін накіў разумея.* Хвёдараўка Краснап. *Так, так, разумею, разумею!* Бяседавічы Хоцім.

РАЗУ́МНА, *прысл.* Разумна. *Разумна ты здзелыў, што ні паехыў зь імі крась лес: пупаліcь яны лісніку.* Казельская Буда Краснап.

РАЗУ́МНІК, -а, *м.* Мудрэц, хітрэц. *Разумнік ты вялікій, толькі ні на дурнога ныпаў, і я мала-мала разумею.* Гарадзец Бабр.

РАЗУ́МНІЧЫНЬНЯ, -я, *н.* Мудраванне. *Ды чаго тут разумнічыньня — кажы, сколькі табе нада, і ўсё па ўсім.* Малюшын Краснап.

РАЗУ́МНІЧЫЦЬ, *дзеясл.* Мудраваць, хітрыць. *Разумнічыць і думаіць, што ніхто ні знаіць яго разумнічыньня.* Малюшын Краснап.

РАЗУ́МНЫЙ, *прым.* Разумны. *Вядома дурак, каб морду нысталіў ёй добра — быў бы разумны.* Радзіонаўка Мсцісл. *Разумныя дзяўчына, добрыя жонка будзіць некыму.* Новы Свет Краснап.

РАЗУ́ЦЦА, *дзеясл.* Разуцца. *Куды я пайду, калі я разулась ужо, а набувацца ня хочыцца.* Хоцімск.

РАЗЧЫ́НЕНЫЙ, *прым.* Адчынены. *Дзьверы разчынены насьцеж, а ў хаце нікога німа.* Хоцімск.

РАЗЧЫНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Адчыніць, расчыніць. *Разчыні вакно, ато вельмі жарка.* Белы Камень Бялынкав.

РАЗЫЙСЬЦІСЯ [разыйцісь], *дзеясл.* Разыйсціся. *Сыбраліся дзеўкі, хлопцы, трохі падурылі, папелі ды і разыйшліся.* Пірагова Мсцісл.

РА́ЗЫМ, *прысл.* Разам. *Мы разым ехылі з ім у горыд і з горыду.* Добрае Мсцісл. *Пыдаждзі нямнога, кум, разым паедзім на бызар.* Канічы Касцюк.

РАЗЬБІ́ТЫЙ, *прым.* Разбіты. *Глобус разьбіт. Чарнільніца цякець — разьбіта.* Шарэйкі Касцюк.

РАЗЬБІ́ЦЦА, *дзеясл.* Разбіцца. *Кватэрка ў вакне разьбілась.* Палуж Краснап. *Варэйка разьбілыся, не ў чым варыць.* Ясінь Краснап.

РАЗЬБІ́ЦЬ, *дзеясл.* Разбіць. *Хлопчык разьбіў шыбку.* Крычаў. *Разьбіў я свой кубачак, зялёнінькій.* Сапрынавічы Мсцісл.

РАЗЬВЕ́РНУТЫЙ, *прым.* [Разварочаны], раскіданы. *Снапы на полі ліжаць разьвернуты, і хто іх парызварачвыў.* Арцёмаўка Міласл.

РАЗЬВЕ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Развесці. *Разьвіла́ мелу, хацела печку пыбяліць, а тут помыза німа.* Арцёмаўка Міласл. *Разьвялі мы цяпло на полі ды давай бульбу пячыць.* Ушакі Чэрык.

РА́ЗЬВІ, *часц.* Хіба. *Разьві можна мыць плацьця пысьля дожджу, ета ж выда тыкая брудная?* Слаўнае Мсцісл.

РАЗЬВІЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Развязаць. *Разьвяжы мотуз, ато я ніяк ні разьвяжу.* Паўлавічы Клім.

РАЗЬВІ́НЧЫНЫЙ, *прым.* Расшрубаваны, разабраны. *Сыламарэзку нада чысьціць разьвінчыную, каб кожную частку дыстаць.* Пірагова Мсцісл. *Касілка пыд паветкый ляжыць разьвінчыныя, нада ужу сабіраць яе — скора касіць будзім.* Зялёны Бор Расняи.

РАЗЬВІ́СЛЫЙ, *прым.* Развесісты, галінасты. *Пыд гэстым дубам ні схуваісься у цяньку — вісокі і сучча неяк мала, а вось пыд гэстым разьвіслым дык і дош ні дыстаніць.* Ушакі Чэрык.

РАЗЬВІТА́ЦЦА, *дзеясл.* Развітацца. *З усёй сям'ёй разьвітаўсь і пайшоў у людзі.* Высокі Бор Краснап.

РАЗЬВІ́ХНУЦЦА, *дзеясл.* Размахнуцца. *Ён як разьвіхнецца ды як ударя яго поўху.* Тур'я Краснап.

РАЗЬДЗЕ́ЦЦА, *дзеясл.* Раздзецца, распрануцца. *Разьдзеўсь, сам на тэй бок паплыў, а адзежа на етым берызі.* Старае Сяло Мсцісл.

РАЗЬЗЮ́КЫЦЦА, *дзеясл.* Разгаварыцца. *Разьзюкыліcь кумычкі, дык пра ўсё на сьвеці забыліcь, абы пыгыварыць.* Парадзіна Мсцісл.

РАЗЬЗЯ́ВІЦЬ, *дзеясл.* Разявіць. *Во разьзявіў рот, хоць з калёсамі заедзь!* Ушакі Чэрык. *Бот мой разьзявіў зубы — кашы хочыць.* Глупікі Крыч.

РАЗЬЛІВА́ЦЦА, *деясл.* Разлівацца. *Чаму ты ні атчарэпіш вады з відра — бачыш, разьліваіцца.* Ушакі Чэрык.

РАЗЬЛІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Разліваць. *Ні разьлівай вады пы хаці, і так мост брудны.* Высокі Бор Краснап.

РАЗЬЛІ́ВЫЙ, *прым.* Рэзкі, непрыемны. *Ну які ж у цябе разьлівы голыс — проста хоць вушы затыкай.* Ушакі Чэрык.

РАЗЬЛІГА́ЦЦА, *дзеясл.* Разлягацца [развальвацца]. *Зымаўчыця вы, ато гылыва разьлігаіцца ат вашыга крыку-лоскыту.* Зубоўка Расняи.

РАЗЬЛІ́К, -у, *м.* Разлік. *Сыпіць грошы біз разьліку, як усё роўна ён такей быгацей, што німаведыма.* Асмолавічы Мсцісл.

РАЗЬЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Разліць. *Кошка разьліла гырлач мылыка.* Малюшын Краснап. *Разьліла воцыт на стол.* Хвёдараўка Краснап.

РАЗЬЛІ́ЧЫВЫНЬНЯ, -я, *н.* Разлік. *Ваша разьлічывыньня ніправільна: там будзіць ня мені як пяць вазоў сена.* Хвёдараўка Краснап.

РАЗЬЛІ́ЧЫНЫЙ, *прым.* [Разлічаны], разрахаваны. *Чаго там лічыць ішчэ — усё ўжо біз вас разьлічыныя.* Рылава Мсцісл.

РАЗЬЛІЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* [Разлічыць], разрахаваць. *Нада точна разьлічыць, па скольні каму прідзецца зыплаціць.* Дзянісавічы Новазыбк.

РАЗЬЛЯЦЕ́ЦЦА, *дзеясл.* Разляцецца. *Ну, твыя кохта разьляцелась ужо ў мэтлух і латыць німа чаго.* Куркаўшчына Мсцісл.

РАЗЬМЕЖАВА́НЬНЯ, -я, *н.* Прабел, што пакідаецца пры вышыванні. *На што ты робіш такоя разьмежаваньня.* Хвёдараўка Краснап.

РАЗЬМЕ́Р, -а, *м.* Цыркуль. *Дай разьмер у дзежку дно 'дцыркнуць.* Хвёдараўка Краснап.

РАЗЬМІНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Размінуцца, раз'ехацца: *Вулычка дужа цесныя: дзьве падводы ні разьмінуцца.* Маластоўка Краснап.

РАЗЬМЯ́ЦЬ, *дзеясл.* [Размяць], разварушыць. *Нырaботыліся мы за ету нядзелю, проста рук не разьмяць.* Пірагова Мсцісл.

РАЗЬНІ́ЦА, -ы, *ж.* 1 Разніца [бойня]. *Гурт быкоў пагналі ў разьніцу.* Мсціслаў. 2. Крама, дзе прадаюць мяса. *Схадзі ў разьніцу і прынясі мяса.* Вербеж Чэрык. 3. Сячкарня, саломарэзка. *У нашай разьніцы дужа вострыя нажы — сноп саломы ў момант рэжыць.* Добрае Мсцісл.

РАЙКА, -і, ж. Асоба, што дае пароды, раіць. *Добрыя ты райка, ды ў свой бок цягніш.* Хвёдараўка Краснап.

РАЙЛО, -а, н. Непарадак [няскладнасць]. *Надзелый тут райла, што й ні рызьбярэш, дзе што.* Палуж Краснап. *У хаці стала такоя райло, што нічога ні стаіць на месьці.* Кокатава Мсцісл.

РАІНЬНЯ, -я, н. Парада. *У бядзе ніхто ні дасьць раіньня, самому нада рызьбірацца.* Гарцуеўка Краснап.

РАЙЦА, -ы, м. Дарадца. *Чужую бяду я січас рызьвяду, а ны сваю бяду райца ні знайду.* Прымаўка.

РАІЦЦА, дзеясл. Раіцца. *Раілісь яны раілісь, што і як рабіць, і ні да чога, відаць, ні дайшлі.* Арцёмаўка Міласл.

РАІЦЬ, дзеясл. Раіць. *Ня ведыю, мая таічка, ня буду табе раіць.* Дубеец Касцюк. *Раю табе, кума, аддаць дачку зы яго, ён ладны хлопіц.* Лешчынка. Мсцісл. *Мне брат раіць ехаць заўтра на кірмаш.* Быкавічы Мсцісл.

РАКА, -і, ж. Рака. *Янка жыве ны рацэ каля лесу.* Куляшоўка Клім.

РАКІ, -аў, мн. л. Лапці. *Ракі робяць з лык.* Сідараўка Калінінщчына. *Ракі скарей плесьць, чым лапці, і лык меньшы нада.* Арцёмаўка Міласл.

РАКІТА, -ы, ж. бат. [Ракіта], вербалоз. *Паўз речкі расцець ракіта, можна ж нарезыць і сплесьць кашэль.* Тур'я Краснап.

РАКІТАВЫЙ, прым. Ракітавы. *Ракітавы куст расьцець ля рэчкі.* Курманава Мсцісл.

РАЛЬЛЁ, -я, н. Ралля. *Ральлё ўжо ўзорана.* Бяліщчына Мсцісл. *Зымарыўся, ходзючы пы ральлю.* Робцы Расням.

РАМА, -ы, ж. Рама. *У вокнах рамы чыста пагнілі — балонкі ні дзіржацца.* Барысавічы Клім. *Аддаў стыляру дзелыць рамы ў вокны.* Курманава. Мсцісл.

РАМЕННЫЙ, прым. Раменны. *Вогылаў раменны, а повады пяньковыя.* Ташна Клім.

РАМЕНЬ, -ю, м. Рэмень, вырабленая скура. *Ныбраў сабе раменю ны падшыўку лапцей.* Слабада Расням. *Рамень добры — падноскі добрыя будуць.* Людагошч. Мсцісл.

РАМОН, -у, м. бат. Рамон, рамонак. *Лі балота замест пшаніцы адзін рамон парос.* Барысавічы Клім.

РАМОНАК, -нка, м. бат. Рамонак, рамон пахучы. *У нас ны двары ўвечыры так пахніць рамонак, што проста мілыта.* Зальнова Расням.

РАНА, -ы, ж. Рана. *У мяне ета рана нізагойныя: усё мякнець і мякнець.* Піратова Мсцісл. *Рана ныназе ніўгаюшчыя.* Палуж Краснап.

РАНА, прысл. Рана, раніцаю. *Сяньні я ўстаў дужа рана — пысьля першых пятухоў.* Крычаваткі Расням.

РАНДЖУГА, -і, ж. Дзяруга [грубая посцілка]. *Накрый кыня ранджугый.* Горка Краснап.

РАНЕЙ, прысл. Раней. *Раней чым увысьці ў хату, трэба выцярці ногі, а ні несьці паўвоза пяску.* Ушакі Чэрык. *Во вышчырыўсь — рад дужа? Ня сьмейся раней часу!* Старае Сяло Мсцісл. *Раней чымсь купіць, трэба пакаштуваць.* Канічы Касцюк.

РАНЕЙШЫЙ, прым. Ранейшы, папярэдні. *Ранейшы прідсідаціль етыга б ня зьдзелыў.* Слаўнае Мсцісл. *Прашу выбачэньня зы мае ранейшыя адносіны к вам.* Канічы Касцюк.

РАНІЦА, -ы, ж. Раніца. *Раніца сяньні была халодная.* Старынкі Расням.

РАНІЦЬ, дзеясл. Раніць. *Нашыга Міколку ранілі ны вайне ў ногу, дык ён цяпер во калдыбыя.* Крычаваткі Расням.

РАНІШНІЙ, прым. Ранішні, ранкавы. *Ранішнія капуста зыстылася, вазьмі ды зьеж, калі есьці хочыш.* Курманава Мсцісл.

РАНІШНІК, -а, м. Пастушок, што выганяе кароў наранкі. *У мяне сын ужо ранішнік — якраз кароў выгыняіць.* Пабкі Расням.

РАНІШНІЦА, -ы, ж. Дзяўчынка-пастушок, што выганяе кароў наранкі. *Я ныняў сабе ранішніцу гыняць кароў.* Крычаваткі Расням.

РАНКІ, -аў, мн. л. Ранак. *Сёньня ўночы зорна: пыд ранкі мароз будзіць.* Горня Хоцім.

РАНЫК, -нка, м. Ранак. *Сяньні ў мяне ранык зы марна прыпаў — нічога ня зьдзелыў.* Канахоўка Клім. *З ранку да вечыра сыпала мяцеліца.* Курманава. Мсцісл.

РАНЬНІЙ, прым. Ранні. *Раньнія птушка — жаўрынык. Чуць толькі на зорку пачнець падымацца — ён ужо зыпяець.* Пірагова Мсцісл.

РАНЬНІК, -а, м. Ранкавы вясновы мароз. *Накрый саломаю рысаду наныч: нешта халодна, калі б заўтрі раньніку ня было.* Гібалы Касцюк.

РАНЬНІМ, прысл. Раніцаю. *Прашнуўся ён раньнім і глядзіць, дзе йта ён ляжыць.* Хвёдараўка Краснап. *Заўтрі раньнім паедзім у горід.* Гібалы Касцюк.

РАНЬНЯ, -я, н. Раніца, ранак. *Раньня было ясная, а к полудню ужо дождж пашоў.* Хоцімск. *Устывай: ны дваре вэн ужо раньня.* Гібалы Касцюк. *Як устала, дык з раньня і да вечыра на ныгах.* Парадзіна Мсцісл. *Піскляёнык пыціряў квакуху, дык крічыць целыя раньня.* Арцёмаўка Міласл.

РАНЬШЫ, прысл. Раней. *Раньшы тут быў шынок.* Хвёдараўка Краснап. *Раньшы будзім есьці варіва, а затым крупеню.* Зяціца Мсцісл.

РАНЫЙ, прым. Ранні. *Раный дошч, раныя рыса, раныя бульба.* Бардзіч Краснап.

РАПТЫМ, прысл. Раптам, нечакана. *Ныляцелі ны яго раптым дый дывай лупіць.* Гібалы Касцюк. *Сыбака спадцішка кінуўся ны яго раптым і зьбіў з ног.* Касперка Міласл. *Чаго вы, хлопцы, раптым ныvalілісь ны яго?* Добрае Мсцісл.

РАСІЦА, -ы, ж. Памянш. ад раса. *Расіца ны траве пысьля дажджу блішчыць.* Старынкі Расням.

РАСКА, -і, ж. бат. Раска. *Хадосься зьбірала у возеры сьвіньням раску.* Прыпечына Калінінщчына. *У сажылцы дык раска ўсю ваду пакрыла.* Каменкі Расням.

РАСКАЗ, -а, м. Расказ [апавяданне]. *Кругом дзеда абселі хлопцы і ўважліва слухаюць яго расказ пра старыну.* Сохана Мсцісл.

РАСКАЛОЦЦА, дзеясл. Раскалоцца. *Паволі зыгыняй гвозд, ато дошка расколіцца.* Ташна Калінінщчына.

РАСКА́ТЫ, -ыў, *мн. л.* [Спецыяльныя] калёсы для возкі бярвенняў. *Сеў на раскаты і паехаў у лес.* Вародзькава Крыч.

РАСКАЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Занесці ўбок на ўхабе. *Сані раскаціліся на зывароці, і ўсі павысыпаліся у сьнег.* Старае Сяло Мсцісл.

РАСКА́ЧЫВАЦЬ, *дзеясл.* Раскачваць. *Ні варзёкай ты етый мыкарон, а раскачывай хырашо.* Куркаўшчына Мсцісл.

РАСКВАСІ́ЦЬ, *дзеясл.* Разбіць да крыві. *Хто табе так твар расквасіў?* Людагошч Мсцісл. *Упаў, зычапіўшыся за корч, дык увесь нос расквасіў.* Каменкі Расням.

РАСКІ́ДЗІСТЫЙ, *прым.* Раскідзісты, развесісты. *Прыгожыя дзерава бяроза: белыя, кучуравыя, раскідзістыя.* Пірагова Мсцісл.

РАСКЛА́СЦЬ, *дзеясл.* Раскласці. *Янка, давай раскладзём цяпло.* Новыя Капачы Мсцісл. *Расклаў тут свае прычындалы, што й сесьці нейдзе.* Зялёны Сарай Мсцісл.

РАСКО́КЫЦЬ, *дзеясл.* Разбіць, раскалоць. *Раскокыла, рызява, блюдзька.* Палуж Краснап.

РАСКО́Л, -у, *м.* 1. Раскол, нязгода. *Міжду імі раскол.* Лютня Краснап. 2. Збойца [разбойнік]. *Ні вяжысь зь ім: ён цібе зуродуя, раскол такі.* Клясін Краснап.

РАСКО́ЛАТЫЙ, *прым.* Расколаты. *Хоць і новым шрубам зьвінцілі мы расколатую падушку ў калёсых, але нічога не пымагло.* Добрае Мсцісл.

РАСКО́ЛІНА, -ы, *ж.* Расколіна, шчыліна ад расколу. *Тапор засеў у расколіні.* Б. Хутары Краснап.

РАСКО́С, -а, *м.* Скошаны з двух бакоў рад травы. *Прайдзі тут раскос і пачнем касіць с абоіх бакоў.* Бяседавічы Хоцім.

РАСКО́ШНА, *прысл.* Прасторна. *Раскошна было ў іхнім домі — хоць роту сылдат пымясьці.* Ушакі Чэрык.

РАСКО́ШНЫЙ, *прым.* Прасторны. *Хата яго раскошныя.* Хвёдараўка Краснап. *Мне твой пінжак раскошны дужа — другей такей улезіць у яго.* Пухнава Расням.

РАСКРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Раскрыць. *Вільчык хаты раскрыла бура.* Пухнава Расням.

РАСКРЫЧА́ЦЦА, *дзеясл.* Раскрычацца. *Цыц, кажу табе, чаго раскрычаўся?* Мсціслаў.

РАСКУПО́РЫЦЬ, *дзеясл.* Адкаркаваць, адаткнуць бутэльку. *Німа чым бутэльку раскупорыць.* Ушакі Чэрык.

РАСКУСІ́ЦЬ, *дзеясл.* Раскусіць. *Раскусі ты мне арэх, ато ў мяне зубоў няма, няма чым раскусіць.* Пірагова Мсцісл.

РАСКУ́ТАЦЬ, *дзеясл.* Расчыніць, адчыніць. *Вокны раскутаны, а ў хаце душна.* Палуж Краснап. *Ні раскутай хаты, ато холадна будзіць спаць, ужу і так выскрілылі за дзінь.* Арцёмаўка Міласл.

РАСПАСЬЦЕ́РЦІСЯ, [распасьцерца], *дзеясл.* Расцягнуцца, разлегчыся. *Што ты распасьцёрлыся ны дарозі, німа табе месца, дзе легчы.* Хвёдараўка Краснап.

РАСПА́ШНІК, -а, *м.* Сошка асыпаць бульбу. *Я прынёс распашнік ганяць бульбу.* Людагошч Мсцісл.

РАСПЛІ́СНУЦЬ, *дзеясл.* Распляснуць, разліць. *Ты ні бягі з поўнымі відрамі, ато ж можна так усю ваду расплісьнуць.* Арцёмаўка Міласл.

РАСПЛУ́ТЫЦЬ, *дзеясл.* Разблытаць. *Во пыгуляў кот з клубком — ні расплутыць нітак.* Парадзіна Мсцісл.

РАСПЛЮ́ШЧЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Расплюшчыць, адчыніць вока. *Во чадушка: толькі вочы расплюшчыў і есьць просіць.* Барысавічы Клім. 2. Раздушыць [расплясканць]. *Сеў ны маю торбу з хлебум і ўсё расплюшчыў.* Старынкі Расням.

РАСПЛЮ́ШЧЫЦЦА, *дзеясл.* Раздушыцца [расплясканца]. *Як кінуў ён камок гліны ў вугол — так ён і расплюшчыўся.* Пірагова Мсцісл.

РАСПО́ЎЗЛЫЙ, *прым.* Распоўзлы, [распаўнелы]. *Во распоўзлыя, гідкыя, як курапа!* Парадзіна Мсцісл.

РАСПРАНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Распрануцца. *Распраніся ды пыабедаем разым.* Затоны Расням. *Трэба распрануцца і леч спаць.* Каменкі Расням.

РАСПРАСТАРЭ́КАВАЦЬ, *дзеясл.* Гаварыць абы-што, адцягваючы ўвагу другіх ад работы. *Дос там распрастарэкаваць, пара на крусодню.* Сутокі Мсцісл.

РАСПРАСТА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Распутаць [зняць путы з коней]. *Распрастай маіх там коній, штоб спутаныя ня беглі.* Палуж Краснап. [2. Распасцерці].

РАСПУСКА́ЦЦА, *дзеясл.* Распускацца. *Вербалоз кыля рэчкі ўжо пачынае распускацца.* Добрае Мсцісл. *На дрэвах булдовычкі ўжо распускаюцца.* Маластоўка Краснап.

РАСПУ́СТА, -ы, *ж.* 1. Распуста, блуд. *Якая была распуста ў гэстым домі — сорым зайці было туды люцкаму чылавеку.* Ушакі Чэрык. 2. Распушчаны чалавек. *У Янкі сын нейкі распуста.* Чыгрынаўка Расням. 3. Разведзены муж, жонка. *Во гэта самы, той распуста, што ж жонкаю разышоўся.* Радзівонаўка Мсцісл.

РАСПУ́СЬНІК, -а, *м.* Распуснік [разбэшчаны чалавек]. *Распусьнік етый усё к дзеўкым прыстаець.* Чарнарэчкі Расням.

РАСПУ́СЬНІЦА, -ы, *ж.* Распусніца. *Ой, з гэстай распусьніцай дык чыстай дзеўчыні і гыварыць стыдна.* Ушакі Чэрык.

РАСПУСЬЦЁХА, -і, *ж.* Неакуратная жанчына. *Зашпіліся, распусьцёха, ато ходзіць расхрыстай.* Маластоўка Краснап.

РАСПУСЬЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Распусціцца [у паводзінах, разбэсціцца]. *Распусьціўся, як пастушыя пуга.* Кокатава Мсцісл. 2. Распусціцца, раскінуцца. *Етый цьвет сырвалі, ні даўшы яму зацьвісьць, відзішяшчэ ні распусьціўся.* Арцёмаўка Міласл.

РАСПУСЬЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Распусціць, патраціць без уліку. *Ніспажытычна жывець, дык у яго й хыпаець, а другей і болі маець, ды распусьціць.* Дубровіцы Клім.

РАСПУ́ТНЫЙ, *прым.* Разбэшчаны. *Распутныя дзеці, усё зьністожылі.* Дубеец Касцюк.

РАСПУ́ХНУЦЬ, *дзеясл.* Распухнуць. *Карову ў лесі укусіла вужака, ад чаго карова распухла і здохла.* Сохана Мсцісл.

*Пчыла ўкусіла, дык усё чысьцінька ліцо распухла.* Слаўнае Мсцісл.

РАСПЫТА́ЦЬ, *дзеясл.* Распытаць. *Распытай у яе, ці бачыла іна нашых ны базарі.* Васілёўка Хоцім.

РАССАХО́РА, -ы, *ж.* Распусцёха [неахайная жанчына]. *Ходзіць рассахорый.* Чэрыкаў.

РАССЕ́ДЛЫНЫЙ, *прым.* Рассядланы. **Цэльный дзень конь ні расседлыный — замучыў кыня.** Шумячы.

РАССМЫРГА́ЦЦА, *дзеясл.* Рассморгацца. *Вытры нос! Рассмыргайся, як у трубу!* Пірагова Мсцісл.

РАССО́Л, -у, *м.* Расол. *Усі гуркі пывыціглі, адзін рассол астаўсь.* Высокі Бор Краснап.

РАССУКА́ЦЬ, *дзеясл.* Рассукаць, адкасаць. *Нада рассукаць штаны, ато січас прідзіцца іціць пы крапіві.* Бяседавічы Хоцім.

РАССУ́НУЦЬ, *дзеясл.* Рассунуць. *Рассунь там жэрдзя, нада кыня завесьць у гарод.* Дарагая Крыч.

РАССУПО́НІЦЦА, *дзеясл.* Рассупоніцца. *Супоня рассупонілась!* Бязводзічы Мсцісл. *Рассупонілася супоня, і конь выпрагся з аглабель.* Аршаншчына.

РАССУСУ́ЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Размаўляць абы пра што [расцягваць тлумачэнне], гаварыць не па справе. *Нечыга тут рассусуліваць, кажы пряма.* Хвёдараўка Краснап.

РАССЫ́ПЫЦЦА, *дзеясл.* Рассыпацца. *Дзелый крепкыя вязьмо, каб сноп ні рассыпыўся.* Слаўнае Мсцісл. *Увесь галень рассыпыўся, і хату нечым мясьці.* Пабкі Раснян. *У клеці з засіку рассыпылісь на мост зірняты.* Сохана Мсцісл.

РАСТА́НЬНЯ, -я, *н.* Ростань, разлука [развітанне]. *Пыцалуваліся яны ны растаньня, і паехыў ён ны вайну.* Ушакі Чэрык.

РАСТАПША́, -ы, *ж.* Разява. *Ой, якая растапша мыя баба! У яе ж з-пад носу вазьмуць, а іна ні бачыць.* Хвёдараўка Краснап.

РАСТО́ПА, -ы, *ж.* Трэскі для падпалу дроў у печы. *Пыкладзі растопу ў запеччы — хай высыхніць.* Хвёдараўка Краснап.

РАСТО́ПЛІНЫЙ, *прым.* Растоплены. *Растопліныя сала я ўліла ў цёрлачка.* Пірагова Мсцісл.

РАСТРУ́ЧЫНЫЙ, *прым.* Развярэджаны. *Баліць ныга: растручыный прежній расьсек.* Палуж Краснап.

РАСТРУ́ШЧЫЦЬ, *дзеясл.* [Раструшчыць], раздушыць. *Ходзючы пы балоці, наступіў на порхыўку і раструшчыў.* Хвёдараўка Краснап.

РАСТРЫБУШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* [Растрыбушыць], разарваць. *Я яго за ета растрыбушу.* Палуж Краснап.

РАСТРЫВА́ЦЦА, *дзеясл.* Разлучацца. *Цяжка яму было растрывацца з жонкый, ды нічога ні падзелыіш.* Палуж Краснап.

РАСТРЭ́СЬЦЬ, *дзеясл.* **Растрэсці. Ты** *хатыль свой растрос.* Кокатава Мсцісл. *Конь як пабег з возум, дык растрос усю салому пы дарозе.* Макуліна Раснян.

РАСТУ́РКАЦЬ, *дзеясл.* Разварушыць. *Растуркай яго, ато ён заспаўся.* Гібалы Касцюк.

РАСХЛЁБА, -ы, *м.* і *ж.* Разява. *Стаіць расхлёба етый і ні бачыць, што сьвіньні ў градах.* Барысавічы Клім.

РАСХЛІБА́ЦЬ, *дзеясл.* [Расхлябаць], разабрацца. *Харош дзялец — нытварыў дзялоў, што й ні рысхлібаеш!* Парадзіна Мсцісл.

РАСХО́Д, -у, *м.* 1. Расход. *Пакіну хлеба, каб хапіла да новыга, а лішку ны расходы прадам.* Серчыцы Краснап. 2. Развод. *Карней пыдаў у суд ны расход з жонкый.* Бардзіч Краснап,

РАСХРЫ́СТА, -ы, *ж.* [Расхрыста], той, што ходзіць расхрыстаны. *Во расхрыстай ходзіць — ушый гузік ды зашпіліcь!* Ушакі Чэрык. *Не хадзі такей расхрыстай, стыдна.* Хвёдараўка Краснап. *Ушый яму шпонкі ў сарочку, ато ходзіць расхрыстым.* Бяседавічы Хоцім.

РАСХРЫ́СТАНЫЙ, *прым.* Расхрыстаны, незашпілены. *Чаго ты расхрыстыная ходзіш, зысьцягніcь, ато зыпякуцца грудзі.* Бяседавічы Хоцім.

РАСХРЫ́СТАЦЦА, *дзеясл.* Расхрыстацца, расшпіліцца. *Што ты расхрыстаўсь, усе 'дно што ўлетку, прастудзіш горла!* Асмолавічы Мсцісл.

РАСЦЯГНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Расцягнуцца. *Вун аблоніна расцягнулася шырокая, як мора.* Пірагова Мсцісл.

РАСЧУ́ХАЦЦА, *дзеясл.* Прыйсці ў сябе, ачуцца. *Ніяк ні расчухаіцца пысля сымагону.* Палуж Краснап.

РАСЧЫНІ́ЦЦА, *дзеясл.* Адчыніцца. *Вароты зачыні, ці ты ня відзіш, што расчынілісь?* Янава Мсцісл.

РАСШПІ́ЛІНЫЙ, *прым.* Расшпілены. *Я думыла, кнопка ў кохці расшпіліна, а іна, аказывыіцца, вырвына.* Арцёмаўка Мілаcл. *Ходзіць расхрыстый, кохта пырваная, расшпіліна.*Ракоўшчына Раснян.

РАСШЧЫ́НЕНЫЙ, *прым.* Расчынены, незачынены. *Ны гарод коўрыты расшчынены.* Халдзееўка Калініншчына.

РАСЬКІ́ДАНЫЙ, *прым.* Раскіданы. *Уся худоба мыя раськідана, дзе пыпала.* Лешчынка Мсцісл.

РАСЬПІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Спяваць [распяваць]. *Як прыгожа расьпівая вілінок* (птушка). Хвёдараўка Краснап.

РАСЬСЕ́ДЛЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Знімаць з коней сёдлы. *Як толькі прыехылі, пычалі расьсёдлываць коняў.* Пірагова Мсцісл. *Ні нады кыня расьсёдлывыць, мне ўремя нет, я січас паеду.* Пабкі Раснян.

РАСЬСЕ́РДЗІЦЦА, *дзеясл.* Раззлавацца. *Ён расьсердзіўся, што ны яго крывяць пылажылі адзежу.* Арцёмаўка Міласл. *Ён дужа зыпальчывый: як расьсердзіцца, можыць чылавека забіць.* Гарбавічы Касцюк.

РАСЬСЕ́Ч, *дзеясл.* Рассекчы. *Гылаву расьсеклі, аж мозык пацёк.* Хвёдараўка Краснап. *Нада еты масол расьсеч, ато ў гаршчок ня ўлезіць.* Мацутаўка Раснян.

РАСЬСЕ́ЧКА, -і, *ж.* Рассечанае месца. *Дывай атпілім етак дрэва ды самай расьсечкі, айдзе цалейшае.* Пірагова Мсцісл.

РАСЬСЕ́ЧЫНЫЙ, *прым.* Рассечаны, расколаты. *Што йта ў цябе бот расьсечы-*

*ный, дзе йта ты яго расьсек?* Бабынічы Мсцісл. *Расьсечыныя дровы былі параскіданы пы ўсяму двару.* Пірагова Мсцісл.

РАСЬСЯ, -я, *н.* Рыззё. *Ад мае спадніцы адно расься зысталося.* Хвёдараўка Краснап. *Цяпер паповы дзеці ходзяць у расьсі.* Куляшоўка Клім.

РАСЬЦІ, *дзеясл.* Расці. *Які вялікі гарбуз расьце ў вас ны гародзі!* Хоцімск. *Гугаль расьце ў жыці ці аўсе.* Парадзіна Мсцісл. *Во расьцець ладный дубок — на вось згадзіцца.* Бакунавічы Чэрык. *Вазьмі во етую яблынку пысадзі ў садзе — будзіць расьці.* Маляцічы Крыч.

РАСЬЦІЦЦА, *дзеясл.* Расці, гадавацца. *Сын расьціўся ў бацькі, расьціўся ды ўзяў і памёр.* Палуж Краснап.

РАТАВАЦЬ, *дзеясл.* Ратаваць. *Ратаваць хлыпца трэба, ато прападзець.* Пірагова Мсцісл. *Братка! Ратуй мяне.* Лабаноўка Калінішчына. *Ратавала я яго, але ж не адратавала — памёр.* Вярбоўка Расняе.

РАЎЧОК, -а, *м.* Раўчук. *Хлопіц чырыз раўчок піряскокнуў.* Палуж Краснап. *Раўчок цякець ціріз дарогу.* Залачова Мсцісл.

РАХАВА, -ы, *ж.* Замарашка [грязнуля]. *Ах ты, рахава пыганыя!* Хвёдараўка Краснап.

РАХЛЮДЗЬДЗЯ, -я, *н.* Старое парванае адзеньне [рыззё]. *Купі ты сабе новыя плацьця, ні хадзі ты ў етым пырваным рахлюдзьдзі.* Слаўнае Мсцісл. *Рахлюдзьдзім трясець.* Хвёдараўка Краснап.

РАХМАНЫЙ, *прым.* Рахманы, ціхі, спакойны. *Ён хлопіц рахманы.* Новыя Капачы Мсцісл. *Твой сын такей рахманы, што нікому і вады ні замуціць.* Лешчынка Мсцісл.

РАХМАЧ, -а, *м.* Ручнік, у якім носяць палудзень на поле ўлетку, махрач. *Бяры гаршкі ў рахмач і нясі бацьку абед.*

РАХУБА, -ы, *ж.* 1. Рухомая маёмасць. *Скора я к вам піраеду са ўсёю рахубаю.* Пірагова Мсцісл. *Зыбраў усю сваю рахубу і паехаў у сьвет.* Кокатава Мсцісл. 2. Канец, квіт. *Выкінь гэту рыгазу і ўся рахуба.* Бабынічы Мсцісл.

РАЧЫКІ, -аў, *мн. л.* Памянш. ад ракі. *Дзед сплёў унуку рачыкі.* Вінаградаў Міласл. *Слаўныя ў цябе рачыкі — хто табе такія сплёў?* Барысавічы Клім.

РАШЧЫНА, -ы, *ж.* Рошчына. *Ці зыстылася ў дзежцы рашчына?* Хвёдараўка Краснап. *Хацеў выгнаць сымагону, але нехта, мусіць, даказаў — прышлі міліцынеры і зыбралі рашчыну.* Вітрунь Касцюк.

РАШЧЫНІЦЬ, *дзеясл.* Рашчыніць. *Нада сёньня рашчыніць хлеб, ато ны заўтрі ні хопіць.* Глупікі Крыч. *Рашчыніла хлеб, а замясіць і німа чым.* Зяціца Мсцісл.

РАШЧЫСАЦЬ, *дзеясл.* Расчасаць. *Выда тыкая, што калі памыіш гылаву, дык выласоў ні рашчысаць — усі нейк зьліпнуцца.* Ушакі Чэрык.

РАШЧЭПЛЕНЫЙ, *прым.* Расшчэплены, расколаты. *Рашчэплены палонік, дык разьліваіцца варіва, пакуль нальеш у міску.* Юркаўка Крыч.

РАШЧЭСАНЫЙ, *прым.* Расчасаны. *Во, як выласы рашчэсаны ды прыбраўся, то й на чылавека стаў пахож.* Васілёўка Хоцім.

РАШШКУМАЦІЦЬ, *дзеясл.* Расшкумаціць, разарваць на шматкі. *Кошка кніжку ушчэнт рашшкумаціла.* Хвёдараўка Краснап.

РАШЭТНІК, -у, *м.* Рашэтнік, паплёт. *Насек воз рашэтніку.* Вародзькава Крыч.

РВАНЫЙ, *прым.* Падраны. *Мой пінжак рваный, што й надзіваць стыдна.* Юшкі Мсцісл. *Карта рваныя і на ёй нічога ні рызьбярэш.* Шарэйкі Касцюк. *У яе на ныгах рваныя панчохі.* Маластоўка Краснап.

РВАЦЬ, *дзеясл.* Рваць. *Няхай іх з етымі сьвіннямі, на іх ні справісься траву рваць — усё паідаюць.* Слаўнае Мсцісл. *Рві, дзетка, зельлійка ды ны мяжу кідай.* Горня Хоцім.

РЁГНУЦЬ, *дзеясл.* Рыгнуць. *Як рёгнуў, дык усе с хаты пуўцікалі.* Горкі Краснап.

РЁГЫТ, -у, *м.* Рогат. *Як увідзюць што ці пацешныя ці не — січас у рёгыт — кожныга абсьмяюць.* Арцёмаўка Міласл.

РЕДЗЬ, -і, *ж.* 1. Чарга. *Сяньні наша редзь кыравуліць.* Касперка Міласл. 2. [Столка]. *Кругом гумно сныпамі абставіў і яшчэ асталісь, дык я іх пыставіў у другую редзь.* Бяседавічы Хоцім. *Я сплёў бізун у чатырі редзі.* Слаўнае Мсцісл.

РЁЗЫЦЬ, *дзеясл.* Рэзаць. *Етыга ягнёнка резыць ні нада, ніхай гадуіцца.* Арцёмаўка Міласл. *Нож тупэй, саўсім ня режыць, на, пайстры ты яго.* Палуж Краснап.

РЕЗЬ, -і, *ж.* Сечка. *У мяне сёліта сена мала: я ўжо даўно резь режу.* Гарбавічы Касцюк. *Треба нарезыць резі, ато нечыга даць каровым.* Канічы Касцюк.

РЕЗЬВІНЫ, -він. *мн. л.* Рэзгіны. *Вазьмі ў сяньніцы резьвіны ды прінясі з гумна саломы, ато бяз іх рыстрасеш усю.* Слаўнае Мсцісл. *Прынёс поўны резьвіны сена, а каню й на вечыр ні хапіла — усё зьеў.* Гібалы Касцюк.

РЁЗЬНІК, -а, *м.* Пампушка. *Ціха, ні плач — я табе резьнікаў сьпяку і дам з сьмітанай.* Мсцісл.

РЕМІНЬ, -мня, *м.* Папруга. *Харошый ремінь, роўный, шырокій.* Канахоўка Касцюк. *У маім ремні дык дужа блішчастыя бряжка.* Слаўнае Мсцісл.

РЕНДА, -ы, *ж.* Арэнда. *Возіря здаецца ў ренду. Ат етый мельніцы ніякай карісці нет: зыплаціш ренду, і сібе нічога ні зыстаніца.* Краснаполле.

РЕПА, -ы, *ж. бат.* Рэпа. *Сёлета у нас зырадзіла рэпа.* Дзеражна Касцюк. *Дзеўкі ў нас дзішавей репы.* Азерцы Клім.

РЕПКА -і, *ж.* Дзіцячая гульня. *Дзеці гулялі ў репку.* Шарэйкі Касцюк.

РЕЧКА, -і, *ж.* Рэчка, рака. *Наша речка нівялікыя, а рыбы ў ёй многа.* Касцюковічы.

РЕШКА, -і, *ж.* Лішка. *Капу змылацілі — зірна будзіць пудоў шэсьць з решкый.* Тур'я Краснап.

РЕШТЫВЫЙ, *прым.* Астатні. *Рештывый рубель атдаў на пряпой.* Краснаполле.

РЕШЫНА, -ы, *ж.* Арэшына. *Хмель абавіўсь кыла решыны.* Палуж Краснап.

РЖЫШЧА, -а, *н.* Жытнішча. *Нывяжы кыня на ржышчы!* Слаўнае Мсцісл. *Ржышча пакідаеце высокае, жэнчыкі, жніце ніжэй.* Мышкі Расняе.

РЗАЦЬ, *дзеясл.* Ржаць. *Коні рзуць.* Горкі Краснап.

РІБАЛКА, -і, *ж.* 1. Рыбак. *Сямён-рібалка прівёз рібу на бызар.* Крычаў. 2. Лоў рыбы. *Хлапцы пашлі на рібалку зраньня і дасюль ні вярнулісь — быгата рібы прінясуць.* Мсціслаў.

РІВАЛЮЦЫЯ, -і, *ж.* Рэвалюцыя. *Хацелі дом будуваць, а тут вийна надыйшла, а тады рівалюцыя, так і зысталося да етыга часу.* Баеўка Крыч. *Штоб пасьцівіць у лесі раньшы, ды рівалюцыі, нада було ў пана дазвол пылучыць.* Арцёмаўка Міласл.

РІГАТУН, -а, *м.* Рагатун. *От ужо нейкі рігатун еты Максім — вешна рягочыць абы ш чаго.* Шамава Мсцісл.

РІГЫЗА, -ы, *ж.* Рагаза [растапыра]. *Што ты ходзіш рігызой, наверна, скульля села.* Клясін Краснап.

РІДНЯ, -і, *ж.* Радня [родзічы], сваякі. *Зьехылысі уся рідня ны свадзьбу.* Восаў Краснап.

РІЖЫЙ, *прым.* Рыжы. *У нас быў поп ріжый — ны гылаве се роўна агонь гаріць.* Палуж Краснап.

РІЗА, -ы, *ж.* Рыза. *У нашыга пупа різа абшіта унізу уся чысьцінька бліскучымі галёнымі.* Слаўнае Мсцісл.

РІЗАК, -а, *м.* Забойца [разнік, разбойнік]. *Ета ні чылавек, а різак нейкій.* Лютня Краснап.

РІЗВАЖВЫЦЬ, *дзеясл.* Развexamination—

РІЗВАЖВЫЦЬ, *дзеясл.* Разважваць, расфасоўваць. *Рівважылі усей авёс па пуду ны брата, бярі якій хочыш мішок.* Арцёмаўка Міласл.

РІЗГАВОРЯ, -і, *ж.* Разгавор. *К чыму етыя різгаворя? Скызаў — ні магу, значыць ні магу, і різгаворя скончына.* Маластоўка Краснап.

РІЗГЛАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Распрасаваць. *Штаны нада різгладзіць: дождж нымачыў учора, дык пыкырябілісь.* Баеўка Крыч.

РІЗГЛАЖЫНЫЙ, *прым.* Напрасаваны. *Выйшыў з двору різглажыный, а зьвірьнуўсь запэцкыный.* Орша.

РІЗДОРГЫЦЬ, *дзеясл.* Расторгаць, разарваць. *Ну, што ета: той сабе, а той сабе цягніць — різдоргылі кніжку.* Крычаў.

РІЗДРЯЖНІНЫЙ, *прым.* Развярэджаны. *Рана старія різдражніна, баліць сільна.* Цівецкая Краснап.

РІЗДРЯПЫНЫЙ, *прым.* Раздрапаны. *У цібе усё абліччя різдряпыныя, дзе йта ты быў, хто цябе так, а?* Дзянісавічы Навазыбк.

РІЗДРЯПЫЦЬ, *дзеясл.* Раздрапаць. *Ні лезь, ато ўсю морду різдряпыю, і пайдзеш.* Палуж Краснап.

РІЗІВАКА, -і, *м.* і *ж.* Разява. *Выцігнулі грошы с кырьмана? Ні будзь різівакый, глядзі.* Орша.

РІЗЛАДЗЬДЗЯ, -я, *н.* Разладдзе, нязгода. *Різладзьдзя ў іх пышло у хаці: нійначый ды дзяльбы дайдуць.* Канава Хоцім.

РІЗЛАДУВАНЫЙ, *прым.* Разладжаны. *На різладуваный скріпкі іграць і харошый музыкант ні сможыт.* Гібалы Касцюк.

РІЗМАЗЫНЫЙ, *прым.* Размазаны, нафарбаваны. *Пышла 'дна тыкая різмазыныя, што глядзець страшна; набеліныя, ныкрашыныя ні дай бог.* Верба Раснян.

РІЗМАЛЁВЫНЫЙ, *прым.* [Размаляваны], нафарбаваны, намазаны. *Выйшыў надысь у цырьку арціст увесь різмалёвыный, стаў нешта гыв765ріць, ды я ні пачула, а людзі пычалі рігытаць і пляскыць.* Клімавічы.

РІЗМАХ, -у, *м.* Размах. *Чылавек дужа бальшога різмаху: яму пыдывай усё ў шырокіх мыштабых, а ні знаіць, што ў райсавеці німа такой можнысці выпыўніць такія намірі.* Крычаў.

РІЗЬМЯЖДЖУЛІЦЬ, *дзеясл.* Размаджэрыць, разбіць, растаўчы. *Саўка упаў на лёдзі і різьмяжджуліў нос — кріві сколькі выцікла, стрях.* Высокі Бор Краснап.

РІЗЫГНАНЬНЯ, -я, *н.* Разгон. *Што тут сыбрялісь, чыго дыжыдаіцісь, різыгнаньня? Дык я різганю, кыгда хочыцця.* Шумячы.

РІЗЫГНАЦЬ, *дзеясл.* Разагнаць. *Пітухі ў кроў б'юцца і різыгнаць нільзя — тут разгоніш, а тут уноў адзін ны аднаго кідаюцца.* Хвёдараўка Краснап.

РІЗЫЙСЬЦІСЬ, *дзеясл.* 1. Разысціся [размінуцца]. *Мы зь ім різыйшлісь недзе. Ён пышоў другей дарогый, таму мы і ні стрелісь.* Расна. 2. Расстацца. *Ішлі ўмесьці ды Палужы, а далі різыйшлісь пасобку.* Маластоўка Краснап. 3. Занадта разбушавацца. *Цыц, дзеці! Різыйшлісь, што ні чуць, што гаворяць, ідзіця на дворь, там хуць ны галовах станьце.* Глупікі Крыч.

РІЗЫК, -а, *м.* Рызыка. *Лёд ны ряке ужу гнілэй, пріїжжаць січас ріку — бальшэй різык: можна і коні загубіць і самому пріпасьць.* Парадзіна Мсцісл.

РІЗЫХОДНЫЙ, *прым.* Разбежны. *Думкі ў яго січас різыходныя, ік кажуць, і хочыцця, і коліцца — і дзеўка ладныя, і ў зіцьця ні хочыцца йсьці.* Бардзіч Краснап.

РІЗЬБІВАКА, -і, *ж.* Разбойнік. *Што ета за різьбівака, ат яго усі дзеці плачуць.* Клясін Краснап.

РІЗЬДЗІУБАЦЬ, *дзеясл.* Раздзяўбці. *Глі, вірябей ні можыць різьдзіўбаць хлеб — сухей дужа.* Мсціслаў.

РІЗЯВА, -ы, *ж.* Разява. *Што ты стаіш, різява, ні бачыш, што сьвіньня ў гарод улезла? Хутка біжы, выгынь.* Дзянісавічы.

РІЗЯПА, -ы, *ж.* Разява. *Во різяпа: ні відзіць, што еду, і стаіць ны дарозі.* Аляксандраўка Краснап.

РІНУЦЦА, *дзеясл.* Рынуцца, кінуцца. *Рыздывалі бяднейшым зямлю: я было рінуўся, ды нічога мне не далі.* Гібалы Касцюк. *Прівезьлі ў кыпірацыю абутык, дык усі рінулісь купляць.* Мсціслаў.

РІПІНА, -ы, *ж.* Уласнае імя Агрыпіна. *Ріпіна пряла воўну.* Габавічы Касцюк.

РІПЫЦЬ, *дзеясл.* Рыпаць. *Пысядзі ты ны адном ужо месьці, ато бегыіш і бегыіш, толькі дзьвірямі ріпыіш.* Слаўнае Мсцісл.

РІСКАЧЫНЫЙ, *прым.* Раскачаны, разгладжаны. *Уцюг доўга грець, надзівай сарочку ріскачыную — іна ўсёдно што й глажыныя.* Палуж Краснап.

РІСКРІЖУВАЦЬ, *дзеясл.* Раскрыжаваць, палажыць крыж-на-крыж. *Тыйкачыкі скачуць так: ріскріжуюць ны масту дзьве лучынкі, або палкі і скачуць, штоб ногі пупыдалі між лучынкамі.* Дзянісавічы Навазыбк.

**РІСКЫЛЫХАЦЬ**, *дзеясл.* Раскалыхаць. *Сьпірьва кол рiскылыхаць нада — так ні выцігніш, бо дужа глыбыка зыгнаный.* Дзянісавічы Навазыбк.

**РІСПАЛІЦЦА**, *дзеясл.* Разгневацца. *За што ты ны яго так рiспаліўсь? Што ён ныпрякудзіў?* Хвёдараўка Краснап.

**РІСПРЯСТЫЦЬ**, *дзеясл.* Распрэгчы. *Ідзі, сынок, рiспрястый кыня, а бацька ніхай ідзець у хату.* Палуж Краснап.

**РІСТАРОП**, -а, *м.* [Разуменне], развага. *Той кажыць адно, другей — другоя: ніякыга рістаропу ні дайсьці.* Б. Хутары Краснап.

**РІСТУРЬКАЦЬ**, *дзеясл.* Раскатурхаць. *Ох, і спаць здаровый, ік засьнець, дык іго трудна рiстурькаць: і устаніць, а вочы ні глідзяць.* Кокатава Мсцісл.

**РІСТЫРЬМАШЫЦЬ**, *дзеясл.* Раскатурхаць, растармашыць. *Ён сонный, нічыго ні сыбріжаіць, насілу рiстырьмашылі.* Бабінкі Раснян.

**РІСХІСТАНЫЙ**, *прым.* Расхістаны. *Ходзіць пыйсягды рiсхістаный — гырьляк голый.* Восаў Краснап.

**РІСХРІСТАЦЦА**, *дзеясл.* Расхлістацца. *Што ты рiсхрістаўсь так, што ўся грудзіна голыя — прастудзісься.* Дзянісавічы Навазыбк.

**РІСЬСІКАЦЬ**, *дзеясл.* Рассякаць. *Ні рiсьсікай ны такея мелкія шчэпычкі, ніхай будуць таўшчэйшыі, ато дужа хутка згыряць.* Маластоўка Краснап.

**РІСЬЦІГАЦЬ**, *дзеясл.* Расцягаць. *Некыму глядзець, дык людзі ўсё рiсьцігаюць— стыялі калёсы, а січас ужу уцігнулі.* Расна.

**РІСЬЦЬВІТАЦЬ**, *дзеясл.* Расцвітаць. *Сады ужу пачынаюць рiсьцьвітаць, штоб ні пабіла цьвет марозым, бо марозы йшчэ даўжны быць.* Хвёдараўка Краснап.

**РІТАЙ**, -я, *м.* Араты. *У цябе сын ужо бальшэй, рiтай ныстыяшчый, а майму толькі сем год.* Дзянісавічы Навазыбк.

**РІШАЦЬ**, *дзеясл.* Рашаць. *Адну зыдачу я рiшала, рiшала — ледзь ряшыла.* Канава Хоцім.

**РІШТУНКІ**, -ыў, *мн. л.* [Рыштунак], маёмасць, усякае начынне. *Сяньні я пiряехыў на другую хвацеру і пiрявез усі сваі рiштункі, тут буду й жыць пакуда.* Расна.

**РІШЫЦІЛЬНЫСЬЦЬ**, -і, *ж.* Рашучасць. *Ні ыравіцца ён мне — німа ў яго патребныя рiшыцільнысьці, цьвёрдысьці хыракціра.* Слаўнае Мсцісл.

**РОБІЦЬ**, *дзеясл.* Рабіць. *Німа чаго робіць яму, так целый дзень і цігаіцца, ні да чога рук ні даложыць.* Расна.

**РОВІНЬ**, роўня, *м.* Грунтвага [ватэрпас]. *Ровінь пыказываець нахіл у правыю стырану.* Пірагова Мсцісл.

**РОГ**, -а, *м.* 1. Рог. *Карова наша нейдзе рог злымала.* Глупікі Крыч. *Мне ахотнік даў цэлый рог поруху за тое, што я пыкызаў яму дарогу.* Бяседавічы Хоцім. 2. Кут. *Зьмітракова хата стаіць ны рагу вуліцы.* Гібалы Касцюк. 3. Ражок [дудка]. *Я сабе зьдзелыў альховый рог, во хырашо йграіць!* Бяседавічы Хоцім.

**РОД**, -у і -а, *м.* Род. *Іх увесь род такей.* Меншая Багацькаўка Мсцісл. *Адзін ён сiрыта: німа ў яго ні роду ні плоду.* Вербеж Чэрык.

**РОДНЫЙ**, *прым.* Родны. *Родныя мама і паб'ець, дык ні так баліць.* Верба Раснян. *Я нашоў прытулык сабе ў родный бабушкі.* Лешчынка Мсцісл.

**РОЖА**, -ы, *м.* 1. *бат.* Ружа. *Наша рожа пачынаіць расьцьвітаць.* Канічы Касцюк. 2. Рожа (хвароба). *Што нам дзелыць з Іваным, усе время ныга баліць — верна, ў яго ны наге рожа.* Канічы Касцюк.

**РОЗВАЛЬНІ**, -яў, *мн. л.* 1. Розвальні, крывіны з бакоў саней. *Я прыдзелыў к санім новыя розвальні.* Бабінкі Раснян. *Дзядзька пылымаў розвальні ў саніх.* Крычаў. *У тваіх санях шырокія розвальні, можна ныдажыць воз, што й конь ні пывязець.* Горня Хоцім. 2. Дзве крывуліны, што насаджваюцца на канцы задняй восі, калі возяць бярвенні. *Бервяно такоя пылажылі на розвальні, што чуць конь вывіз із лесу, аж каткі ў зямлю ўлезьлі.* Касцюковічы.

**РОЗГА**, -і, *ж.* Розга. *Раньшы ны ваенный службе розгымі секлі сылдат.* Барысавічы Клім.

**РОЗДЫХ**, -у, *м.* Адпачынак. *Бацька работыў цэльный дзень і роздыху не було.* Палуж Краснап.

**РОЗНА**, *прысл.* Усяк. *Розна бываіць ны вяку: і добра і дрэнна.* Ушакі Чэрык.

**РОЗНАДУМНЫСЬЦЬ**, -і, *н.* Разнамыснасць, розны погляд на рэчы. *У нас с табой рознадумнысьць, і мы нікыгда ні сыйдземся ў думкых.* Маластоўка Краснап.

**РОЗНЫЙ**, *прым.* Розны. *Сяньні ны базарі пынаехыла купцоў з рознымі тыварамі.* Чэрыкаў.

**РОЗУМ**, -у, *м.* Розум. *Ён сам малы, дык і розум нівялікі маіць.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Калі розуму ў гылаве німа, дык шапка ні дасьць.* Гарбавічы Касцюк.

**РОЗЫВЫЙ**, *прым.* Ружовы. *Яблыня цьвіцець бела-розывым цьветым.* Арцёмаўка Міласл.

**РОЗЫЙГРА**, -ы, *ж.* Розыгрыш. *З нашыга зыкладу выходзіць розыйгра — ніхто нікому ні віныват.* Канічы Касцюк.

**РОЗЫЧКА**, -і, *ж.* Памянш. ад розга. *Хлыпца абджогылі розычкымі.* Дзіснакіта Мсцісл.

**РОЗЬВІЛЬНЫ**, -аў, *мн. л.* Розвальні. *Нада здзелаць новыя розьвільны, бо гэтыя разваліліся.* Новыя Капачы Мсцісл.

**РОЗЬНІЦА**, -ы, *ж.* Розніца. *Між імі вялікая розьніца: іна — вісокая, прыгожая, а ён — маленькі, плюгавы.* Ушакі Чэрык.

**РОЙ**, -ю, *м.* Рой. *Сяньні ў маю борць зыляцеў рой.* Бяседавічы Хоцім. *Зачырывала дзеўка хлопцыў: усе за ёю роім ходзюць.* Ушакі Чэрык.

**РОЙЛА**, -ы, *ж.* Непарадак. *Зайшлі к ёй у хату, а там — ройла, разгрым, усё пыраськідана.* Пірагова Мсцісл.

**РОСПУСК**, -а, *м.* Развод. *Андрэй з Мар'ію ўжо ні жывуць — разыйшліся і роспуск абгыласілі ў газэце.* Пірагова Мсцісл.

**РОСПУСКІ**, -аў, *мн. л.* Мажары. *Запрагай роспускі, паедзім па снапы.* Машуты Аршаншчына.

**РОСПУСТ**, -а, *м.* Развод. *У нашый дзярэўне цяпер роспусты пайшлі: распусь-*

*ціліся Іван з жонкаю і мая дачка з мужам.* Пірагова Мсцісл.

РО́СПЫТ, -а, *м.* Допыт, следства. *Міліцыя прыехыла на роспыт, ета што чылавека забітыга нашлі, дык пра тое.* Тур'я Краснап. *Цётка Лёксы пышла на роспыты ды жыніха.* Горкі Краснап. *Прішла на роспыты аб жыніху, што зысватыў дзеўку зь іх сіла.* Б. Хутары Краснап.

РОСТ, -у, *м.* Рост. *Во бурдзіла, аршыны тры ростым будзіць!* Слаўнае Мсцісл.

РО́СТЫНЬКІ, -ыў, *мн. л.* Ростань, разыходжанне дарог. *На етых ростынькых мы і рызайдземсь: табе іціць ныправа, а мне пряма.* Бяседавічы Хоцім. *Як дайдзем да ростынькыў — пывярні ўправа.* Хвёдараўка Краснап.

РО́СЫЧКА, -і, *ж.* Расінка. *У мяне ад ранку росычкі йшчэ ў році ні було.* Хвёдараўка Краснап.

РОСЬ, -і, *ж.* Імжа, драбнюткі дождж. *Ны дварэ рось нейкыя, як увосень: сыра, холадна.* Гімбатаўка Мсцісл. *Ныд зямлёю павіс густы туман і сыпліцца дробныя, як пыл, рось.* Сохана Мсцісл.

РО́СЬПІСКА, -і, *ж.* Распіска. *Рыгор дай мне росьпіску на грошы.* Цірэні Раснян. *Ну-ка, расчыркніся пад етыю росьпіскаю!* Пірагова Мсцісл.

РОСЬЦЬ, *дзеясл.* Расці. *Птушанёнык быў у пушку, а тады пінушкі пычалі росьць.* Хвёдараўка Краснап. *Ён як росьць, дык росьць!* Казельская Буда Краснап.

РОТ, -а, *м.* Рот. *Замуздай кыня — дай яму узіла ў рот! Ён гатоў пасьледній кусок з рота выврваць.* Арцёмаўка Міласл.

РОТАЗЕ́Й, -ея, *м.* Разява. *Ротазей еты стаў сярёд вуліцы і стаіць — варон ловіць.* Сапрынавічы Мсцісл. *Ты, ротазей, празіваеш, нічога ня ўгледзіш.* Хвёдараўка Краснап.

РОЎ, рова, *м.* Роў. *Дождж размыў бальшэй роў.* Шчыпаў Раснян. *Пысьля даждзу повен роў вады ныцякло.* Гусарка Клім.

РО́ЎНА, *прысл.* Роўна. *Ты кажыш, што ён п'яны — палянь, як роўна ідзець і ні збочыць навыт.* Ушакі Чэрык.

РОЎНАВА́ГА, -і, *ж.* Раўнавага. *Ты цяжэй, затым і перацягуіш нас і німа роўнавагі.* Ушакі Чэрык.

РОЎНАКАШТО́ЎНЫЙ, *прым.* Роўнакаштоўны, аднолькавай вартасці. *Я ж думаў, што твае боты дыражэйшыя, а яны роўнакаштоўныя маім — ні даражэй ні таньней.* Ушакі Чэрык.

РО́ЎНАСЬЦЬ, -і, *ж.* Роўнасць. *Якая можыць быць між намі роўнасьць? Ты быгаты, а я бедныя.* Ушакі Чэрык.

РО́ЎНЫЙ, *прым.* Роўны. *Етый край лучыны роўный, па ім можна лінеіць бумагу, як пы лінейкі.* Арцёмаўка Міласл. *Як выйдзім за етый лес, дык там роўныя плошча вёрст на́ сім.* Крывы Лес Шумяц.

РО́ЎНЯДЗЬ, -і, *ж.* Роўнядзь, роўнае месца. *Кругом нашае дзярэўні роўнядзь: а ні табе дрэва, а ні кусьціку.* Пірагова Мсцісл. *Тут тыкая роўнядзь, што нідзе ні бугрынкі, ні далінкі німа.* Барысавічы Клім.

РО́ШВА, -ы, *ж.* Росшыва. *Гаспадыня распусьціла рошвы і з гэтых нітак зьвязала панчохі. У абрус ушыты рошвы.* Бель Мсцісл.

РУБ, -а і -бля, *м.* Рубель, грашовы знак. *Етый руб ні пайдзёць, ён увесь пырваный.* Канічы Касцюк. *Пазыч мне руб грошы, калі маеш.* Кокатава Мсцісл.

РУБА́НІЦ, -нца, *м.* Палена [дроў], якое павінен прывезці кожны начлежнік для агульнага кастра. *Коній прігнаў і сам пріщоў да ціпла, а дзе ж твой рубаніц, чаму ня прывёз?*

РУБА́НІЦЬ, *дзеясл.* Стругаць рубанкам [габляваць]. *Айдзе рубанык, будзем рубаніць дошкі — ужо высахлі.* Хвёдараўка Краснап.

РУБАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Рубануць, сякануць. *Як рубануў бярозу, так зараз жа і пацёк сок.* Сутокі Мсцісл. 2. Сыпнуць (пра дождж). *Дождж як рубануў, дык як зь відра.* Горкі Краснап.

РУБА́НЫК, -нка, *м.* Гэбель. *Ні знаю, чым ты затупіў мой рубанык, Іван, верна на гвозд.* Канічы Касцюк. *Хацеў троху пачысьціць дошку, ды рубанка німа, а пазычацьісьці ня хочыцца.* Шчыпаў Раснян.

РУБАЦЁНКА, -і, *ж.* Сарочка [кашуля]. *Во аскола́, яму ж надзеніш у раньні рубацёнку, а к вечыру дык ужу як пумяло — зноў мыць нада.* Арцёмаўка Міласл. *У кыпірацыі нічога ні даюць, дажы січчыку, німа ш чаго дзіцёнку і рубацёнкі пашыць — голыя бегыюць.* Крывы Лес Шумяц.

РУБА́ХА, -і, *ж.* Сарочка, кашуля. *Пышоў Міхась у красный рубахі і рямнём пыдпыясыный.* Азёрцы Клім. *Ён у лазьню пойдзець, нада яму даць споднікі і рубаху, а мыла, венік і мычалку сам знойдзець.* Арцёмаўка Міласл.

РУБА́ШКА, -і, *ж.* Сарочка, кашуля. *Ад іскры рубашка зацьмела, дык вось і дзірачка зьдзелылась.* Сохана Мсцісл. *Ушый у рубашку цьвіклю, а я пыбягу гузікаў купіць.* Касцюковічы.

РУБЕ́ЛЬ, рубля́, *м.* Рубель. *Рубель грошы паціраў.* Башары Раснян. *Аштрыхувалі мяне на дзесяць рублёў за няздачу прыдналога, цяпер бяры йдзе хочаш.* Пірагова Мсцісл.

РУБЕ́Ц, рубца́, *м.* Рубец. *Рубец у рубашкі дужа бальшэй — падмышкый режыць.* Крычаў. *На віску, кыля валосься рубец ацтаўсь.* Парадзіна Мсцісл.

РУБІ́ЦЬ, *дзеясл.* [Секчы], сячы. *Гетай тапор дужа атойстраны, добра рубіць.* Пірагова Мсцісл. *Лес рубяць, аж тыпары зьвіняць.* Мацутаўка Раснян.

РУ́БЧЫК, -а, *м.* Жэрдка, якою прыціскаюць салому, сена на возе, рубель. *Рубчык пулумаўся, увязывыючы снапы.* Хвёдараўка Краснап.

РУ́БШЧЫК, -а, *м.* Цясляр. *Рубшчыкі ўжо пычалі хату рубіць.* Куляшоўка Клім.

РУ́ГАНЬ, -і, *ж.* Лаянка. *Гэта ж нада мець цярплівысьць, каб знасіць такую ругань.* Лешчынка Мсцісл.

РУГА́ЦЦА, *дзеясл.* Лаяцца. *Я ды цябе з ласкый, а ты ў адказ ругацца.* Старае Сяло Мсцісл.

РУГА́ЦЬ, *дзеясл.* Лаяць. *Во ужу ныдругаіцца над ёю мужык: і б'ець, і ругаіць,*

*і з хаты гоніць, усё роўна як іна яму запрыданыя ікая.* Арцёмаўка Міласл.

РУДА́, -ы, *ж.* Гразь. *Так нырудзямеў у рабоці, што й лазьня руду ні атмыла.* Буглаўескі Краснап. *У суседа ў хаце столькі руды, што ўвайсьціць страшна.* Лапаціна Мсцісл.

РУ́ДЗЬКА, -а, *м.* Руды, рыжы. *Вунь нейкі рудзька пашоў — выласы, як агонь, гыраць.* Ушакі Чэрык.

РУДЛЁЎКА, -і, *ж.* Рыдлёўка, жалезная лапата. *Рудлёўка лепш жылізьняка.* Аршаншчына.

РУДЫ́Й, *прым.* Рыжы. *Сам білявый, а жонку ўзяў рудую, і дзіцёнык будзіць рудэй.* Палуж Краснап.

РУЖАВЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Ружавець. *Лісьця на дрэвах пычалі ружавець — восінь ужо ныстала.* Юшкі Мсцісл.

РУЖЖО́, -а, руж'ё, -я, *н.* Стрэльба. *Тваё ружжо б'ець купый.* Хвёдараўка Краснап. *Аўхім зыстрэліў зайца з ружжа.* Гібалы Касцюк. *Стральнуў з ружжа дранкулькай.* Пацкава Мсцісл. *Мне дзядзька купіў быў руж'ё, ды я пылумаў.* Шарэйкі Касцюк. *Хадзіў з руж'ём ны зайца, а тут пупаўся воўк.* Касперка Мсцісл.

РУЗДУМА́ЦЬ, *дзеясл.* Раздзьмухваць. *Віцярок пувівая ды вугалёк руздумая.* Маластоўка Краснап.

РУ́ІНА, -ы, *ж.* Выгода, шчаслівае жыццё. *Во каму руіна — усякі пызавідыіць.* Хвёдараўка Краснап.

РУКА́, -і, *ж.* Рука. *Ён пыдываў снапы, і нейк рука пыпала ў мылацілку, дык усі пальцы патрушчыла.* Парадзіна Мсцісл. *Астыг увесь чыста: рукі й ногі, як лядні.* Пірагова Мсцісл.

РУКАВІ́ЦА, -ы, *ж.* Рукавіца. *Адна мыя рукавіца нейдзе закінулась, ні знайду.* Ушакі Чэрык. *Рукавіцы надзень на рукі, ато палцы пытмарозіш.* Куляшоўка Клім.

РУКА́Ў, -ва, *м.* 1. Рукаў. *Шургануўся, бягучы, аб дзерыва плячом і ўвесь рукаў выдраў.* Парадзіна Мсцісл. *У тваім пінжаку рукавы кароткі.* Негін Касцюк. 2. Жолаб. *У прудзе спорціўся рукаў, што дайжа нільзя й малоць.* Канічы Касцюк.

РУКА́ЦЦА, *дзеясл.* Вітацца за руку. *С хворымі ні нада рукацца, ато яшчэ ныбярэсься зыразы.* Слаўнае Мсцісл.

РУЛІ́, -ёў, *мн. л.* Рулі, страва з хлеба, вады, цыбулі і алею. *На полудзень у нас сяньня рулі.* Татаршчына Мсцісл. *Зьдзелай нам, мама, рулі з алеім.* Кажамякіна Краснап. *Матка накрышыла хлеба ў ваду, заліла алеім і вышлі смашныя рулі.* Куляшоўка Клім.

РУ́ЛЯ, -і, *ж.* Руля, дула стрэльбы. *Ныставіў рулю ў грудзі і ні пускаіць, кажыць, стрілящь будзе, калі ступлю яшчэ сігень.* Клімавічы.

РУМ, -а, *м.* Рум, месца на беразе ракі, куды звозяць бярвенні для сплаву. *На рум нывазілі шмат бярвенняў.* Тур'я Чэрык.

РУ́МЗА, -ы, *ж.* Румза, плакса. *Во румза! Абы зычапіў, дык і плача.* Старае Сяло Мсцісл.

РУ́МКА, -і, *ж.* Чарка, кілішак. *Выпі румку гарэлкі — цяплей будзе.* Хоцімск.

РУМЯ́НІСТЫЙ, *прым.* [Румяны, чырвоны]. *У яе шчокі такея румяністыя, што, здаецца, ныкрашыны.* Краснаполле.

РУМЯ́НЫЙ, *прым.* Румяны [чырвоны]. *Красівый хлопіц, нічога ні скажыш: высокій, румяный.* Васілеўка Хоцім.

РУНДУ́К, -а, *м.* 1. Невялікая крамка на рынку. *Трэба зайці ў рундук ды ўзяць троху солі.* Тур'я Чэрык. [2. Куфар для прыпасаў].

РУНІ́СТЫЙ, *прым.* Зялёны [зарунелы]. *Усходы руністыя, роўныя — ладныя будзіць рож.* Шумячы.

РУНО́, -а, *н.* Руно, воўна заднае авечкі, скручаная ў ком. *З етае авечычкі і руно нівялікыя.* Васілёўка Хоцім.

РУНЬ, -і, *ж.* Рунь, жытнія ўсходы. *Рунь пакрыла чорнае поля.* Лешчынка Мсцісл. *Сёліта рунь ладныя: роўныя, густая — жыта будзець добрыя.* Навашоўкі Раснян.

РУ́ПАТЛІВЫЙ, *прым.* Рупны, клапатлівы. *Рупатлівы наш бацька: рупіцца рана ўставаць, штоб раньшы ўсіх ны працу выйсьці.* Сохана Мсцісл. *Наш сусед дужа рупатлівы: устаець ні сьвет, ні зыря.* Лешчынка Мсцісл.

РУ́ПІЦЦА, *дзеясл.* Рупіцца, турбавацца. *Треба рупіцца: само ў хату нічога ні пріплывець.* Дубеец Касцюк. *Я пазычыў грошы і так руплюся аддаць, што заснуць ні магу спакойна.* Крычаў. *Я павінен яму грошы, дык мне рупіцца, як і калі іх аддаць.* Мсціслаў.

РУ́ПІЦЬ, *дзеясл.* Рупіць, непакоіць. *Пысядзела б, ды рупіць двору йці — хату 'дну пакінула.* Парадзіна Мсцісл. *Мне дужа рупіць, ці пуправіцца йна.* Сутокі Мсцісл. *Мне рупіць іці жаць у поля, ды ў дваре ня ўсё яшчэ падзелына.* Слаўнае Мсцісл.

РУ́ПЛІВЫЙ, *прым.* Руплівы, рупны [клапатлівы]. *Руплівый ныпрацуецца, пакуль лянівый прашнецца.* Сохана Мсцісл.

РУ́ПНА, *прысл.* Рупна. *Я рупна дыжала сваё жыта, а цяпер буду атдыхаць.* Слаўнае Мсцісл.

РУПО́ТЛІВЫЙ, *прым.* Рупны, руплівы, клапатлівы. *Міхась — гаспыдар рупотлівэй: рупіцца ўзыраць і засеяць раньшы.* Ганнаўка Клім.

РУПЫТА́, -ы, *ж.* Рупнасць, клопат. *Рупыта чылавеку ні пашкодзя.* Горка Краснап. *У гаспадарцы дужа быгата усялякія рупаты.* Ельня Краснап. *Ні хызяін двару, калі ні аб чым рупаты німа.* Сохана Мсцісл.

РУ́ПЫТЛІВЫЙ, *прым.* Рупны, руплівы [клапатлівы]. *Рупытлівый хыдзяін бяз хлеба ні сядзіць.* Кокатава Мсцісл. *Во ета хыдзяін рупытлівый: ні засьпіцца — да сонца ўстаніць.* Слаўнае Мсцісл.

РУ́СКІЙ, *прым.* Рускі. *Табе ж кажуць рускім языком — нідаверык ты!* Пірагова Мсцісл.

РУСУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Злаваць [шалець, лаяцца]. *Русуя йна чаго-та ў хаці: усіх павыганала, міскі пабіла.* Хвёдараўка Краснап.

РУ́СЫЙ, *прым.* Русы. *У насьлества ат*

*бацькі мне асталіся адны толькі русыя кудры.* Слаўнае Мсцісл.

РУ́СЬКІЙ, *прым.* Рускі. *Пы аблічу відаць, што чылавек ня руській.* Гарбавічы Касцюк.

РУСЬЦЬ, *дзеясл.* Плакаць, раўці. *Кінь русьць па ім — усё роўна ні ўстаніць.* Хвёдараўка Краснап.

РУЎНУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Раўнавацца. *Нечыга табе па мне руўнувацца, ты за мной ні пасьпееш.* Арцёмаўка Міласл.

РУХА́ВА, *прысл.* Рухава. *Прібыло вады, і кылясо ў прудзі зыхадзіла дужа рухава.* Слаўнае Мсцісл.

РУХА́ВЫЙ, *прым.* Рухавы. *Рухавы хлопіц — ён ні заседзіцца біз работы.* Халдзееўка Калінiншчына. *Наймі яго ў бытракі, ён рухавый, са ўсім справіцца.* Слаўнае Мсцісл.

РУ́ХАЦЦА, *дзеясл.* Рухацца. *Позна ўжо, нада рухацца двору.* Куляшоўка Клім.

РУ́ХАЦЬ, *дзеясл.* Рухаць. *Жалеза ны падоскі нада купіць, дык і двору можна рухаць.* Мсціслаў.

РУХМА́НЫЙ, *прым.* Рахманы. *Ён у нас хлапец рухманы — і ны бабскую і на мужычую работу гразд.* Смолькаўская Буда Бялынкав.

РУХО́МЫЙ, *прым.* Рухомы. *Барыс прыдаў і зямлю, і хату, і ўсю рухомыю маёмысьць.* Тульдава Раснян.

РУХО́МЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Рухомасць, рухомая маёмасць. *Во і ўся мыя рухомысьць у етый пуні — калёсы, сані.* Лешчынка Мсцісл.

РУЧА́Й, -я, *м.* Ручай, ручэй. *Ручай шмурчыць у траве, а выда ў ім халодныя.* Горка Краснап. *З-пыд каміня выцікаіць крыніца і цякець ручаём у луг, у ряку.* Зяціца Мсцісл.

РУЧА́ЙКА, -і, *ж.* Ручайка, верацяно з наматанымі на яго ніткамі. *Поўная ручайка нітак вышла з етай мычкі.* Залесавічы Крыч. *Я за дзень сяньня сем ручаік ныпрала.* Добрае Мсцісл. *Напрала цэлу ручайку, а яго ўсё няма.* Горкі.

РУЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Запэўніваць, даваць гарантыю. *Я табе ручаю, што грошы 'ддам у сіряду.* Палуж Краснап.

РУ́ЧКА, -і, *ж.* Ручка, дзяржанне. *У плузе зламілася ручка.* Бязводзічы Мсцісл. *Купі нівялікій гарнушык з ручкый у ягады хадзіць.* Слаўнае Мсцісл.

РУ́ЧКІ, ручак, *мн. л.* Драўляныя брускі, што ўстаўляюцца ў падушку калёс і да якіх прымацоўваюцца жэрдкі, барты калёс. *Ручкі зламілісь, і воз разьехыўся.* Бяседавічы Хоцім. *З етыга дубка нада выцісаць ручкі ў калёсы.* Ташна Клім.

РУЧНІ́К, -а, *м.* Ручнік. *Дзяўчына вышывала ручнік.* Шумячы.

РУ́ЧУХНА, -ы, *ж.* Ручанька. *Капалі мы бульбу, а вецір быў, вецір! Мае ручухны ат холыду пакырчанелі.* Пірагова Мсцісл. *Хадзі, дзетка, ка мне! Дай ручухны, дай!* Краснаручча Раснян.

РУЧЧО́М, *прысл.* Ручаём. *У яго з носу цякець руччом — прызяб відна.* Горка Краснап.

РУЧЭ́Й, -ыя, *м.* Ручэй, ручай. *Цірязь луг цякець ручэй, там можна ныбраць вады.* Касперка Міласл. *Ля ручыя, як сядзелі, я пакінула торбычку з хлебым.* Паўлавічы Клім.

РУШНІ́К, -а, *м.* Ручнік. *Маці, дай чысты рушнік, ато еты ўжо грязны.* Баеўка Крыч. *У вёсках ткуць вельмі прыгожыя рушнікі.* Бель Мсцісл.

РУШТУВА́НЬНЯ, -я, *н.* Рыштаванне, падмосткі каля сцен будоўлі. *Пылізай ны руштуваньня, а мы будзім пыдываць табе бірвяно.* Хвёдараўка Краснап.

РУШТЫ́НКІ, -аў, *мн. л.* Рыштаванне. *Пыставім руштынкі, ато ўжо высока пылажылі сьцены.* Хвёдараўка Краснап.

РУ́ШЫНЬНЯ, -я, *н.* Руханне, пераход. *Ні люблю я рушыньня з аднаго месца на другое, лепш ны адном быць.* Слаўнае Мсцісл.

РУ́ШЫЦЦА, *дзеясл.* Рухацца, зрушвацца. *Я ня буду і з места рушыцца, пакуль ні палучу пісьмо, што я яму нада, што ён мяне завець.* Арцёмаўка Міласл. *Ну, тата, дос-ка нам гасьціць, будзем патрохі рушыцца двору!* Пірагова Мсцісл.

РУ́ШЫЦЬ, *дзеясл.* Чапаць. *На што табе было рушыць старую хату, цяперь новую ні пыставіш, будзіш пы людзкіх бысцяцца.* Слаўнае Мсцісл. *Глядзі і пальцым ня руш кніжкі, ато будзе баня!* Парадзіна Мсцісл. *Ня руш мяне, ні чыпай!* Палуж Краснап.

РЫ́БА, -ы, *ж.* Рыба. *Нешта цяпер рыба ня ловіцца на блісьню.* Тур'я Чэрык. *Вазьмі осьці, пойдзем рыбы пыглядзім, мо' што й заб'ём.* Каробчына Мсцісл.

РЫБА́ЛКА, -і, *ж.* Рыбак [рыбалоў]. *Ня йдзі туды, там рыбалка вудзіць рыбу, дык будзіць злувацца, што пыганілі яму рыбу.* Гібалы Касцюк. *Рыбалка сь цябе, ня ўмееш прынаду нысадзіць на кручок.* Хвёдараўка Краснап.

РЫБАЛО́Ў, -ва, *м.* Рыбалоў. *Лукаш быў добры рыбалоў, бывала, толькі выйдзіць ны ряку ці з вудыю, ці з венціpым — зараз ўжо й рыба ёсьць.* Міцькаўшчына Мсцісл.

РЫБАЛО́ЎСТВА, -а, *н.* Рыбалоўства, лоў рыбы. *Рыбалоўства — добрыя справа: кожный дзень сьвежыя рыбка ёсьць.* Канічы Касцюк.

РЫ́БКА, -і, *ж.* Памянш. ад рыба. *Злавіў я маліనькіх дзьве рыбкі за дзень.* Канічы Касцюк. *Адна рыбка выскачыла на паверх вады і пірякулілысь.* Сапрынавічы Мсцісл.

РЫВАЛІ́ЮЦЫЯ, -і, *ж.* Рэвалюцыя. *Паня акачурылась у самы дзень рывалюцыі.* Палуж Краснап.

РЫГАЗО́Ю, *прысл.* Рагазою, непарадкам. *Ты ж пыстаў кылячкі хырашэнька, ато кінуў рыгазою пысярёд дарогі.* Добрае Мсцісл.

РЫГА́ТКА, -і, *ж.* Рагатка, вілаваты абрубак. *На етыя дзерыва так ні ўзьлезіш, пыдстаў к яму рыгатку.* Хвёдараўка Краснап.

РЫ́ГАЦЬ, *дзеясл.* Плакаць наўзрыд. *Дос табе рыгаць — ныплакыўся ўжо.*

Хвёдараўка Краснап. *Дзіця рыгаіць і сьцешыць яго німа чым.* Залесавічы Крыч.

РЫГА́Ч, -а, *м.* 1. Рагач, развілкі ў сасе. *У плашчы атлымаў рыгач, дык і пыхаць кінуў.* Брылёўка Краснап. 2. Вось шпулькі ў самапрадцы. *Пад етыя шпулькі етый рыгач мал, дренна прясьць.* Арцёмаўка Міласл. *Купіла сяньні рыгач у сыныпрядку.* Хвёдараўка Краснап.

РЫГІЗУ́ЛЯ, -і, *ж.* Нешта рагатае, ражон. *Стаіць нейкыя рыгізуля, увесь проход зыгырадзіла.* Палуж Краснап.

РЫГО́Р, -а, *м.* Уласнае імя Рыгор. *Сяньні Рыгор Міхасёў забіў старую зайчыху — пыд кустом спала.* Затоны Расням. *Рыгор прыехаў з горыду, пайдзём пыглядзім, мо' што прывёз цікавыя.* Дзіснакіта Мсцісл.

РЫГЫЖА́НКА, -і, *ж.* Рагажанка, сані абабітыя рагожаю. *Зыпрыгай кыня у рыгыжанку, паедзім к дзядзьку ў госьці.* Горка Краснап.

РЫГЫЗА́, -ы, *ж.* Нешта такое, што тырчыць ва ўсе бакі. *Салома з-пад мылацілкі — рыгыза нейкыя: яе ніяк ні складзеш у стог.* Касперка Міласл.

РЫДЛЁУКА, -і, *ж.* Рыдлёўка, драўляная лапата з жалезным лязом. *Добрыя рыдлёўка была ды рыскалолысь, а зілізьняком я ні магу кыпаць — у ногу муліць.* Канахоўка Клім.

РЫДНЯ́, -і, *ж.* Радня, сваякі. *Адхіснулыся ат мяне ўся мыя рыдня, кажуць — асароміла я іх.* Пірагова Мсцісл. *Мыя рыдня нікалі мяне ні пызавець к сабе.* Канічы Касцюк. *У нас сяньні вясёла: пазьехалась пасьці ўся рыдня.* Пірагова Мсцісл.

РЫ́ЖЫЙ *прым.* Рыжы. *Наша рыжыя карова дужа малочная.* Пірагова Мсцісл.

РЫ́ЖЫК, -а, *м.* 1. *бат.* Грыб рыжык. *Вось адзін рыжык я знайшоў — глядзі, тут павінны йшчэ быць.* Мсціслаў. 2. Сурэпка, свірэпка. *Нада выпылаць рыжык ува льне.* Хвёдараўка Краснап.

РЫЗАБІ́ДНА, *прысл.* Крыўдна. *Рызабідна стала, што ні за што, ні пра што аблаілі чылавека.* Палуж Краснап.

РЫЗАБІ́ЦЬ, *дзеясл.* Разбіць. *Пымалу ты варочыйсь кыла посуды, ато рызабіць можыш.* Арцёмаўка Міласл.

РЫЗАГНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Разагнуць. *Ад марозу рукі зыдубелі — ні рызагнуць.* Парадзіна Мсцісл. *Як дзед памёр, дык я думуў, што ета ён заснуў, аж цапнуў за руку, дык ён ужу адзірвянелый — палцыў ні рызагнеш.* Арцёмаўка Міласл.

РЫЗАЗЬЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Раззлавацца. *Рызазьліўсь і загрэў яму такую плявуху, што з воч пасыпыліс іскры.* Старае Сяло Мсцісл.

РЫЗА́К, -а, *м.* Разбойнік [разнік]. *Казловіч — рызак, зь ім ноччу страшна сустрэцца.* Гарадок Міласл.

РЫЗАЛЬЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Разліць. *Трэба ж ткі рызальліць крупеню. Рызальліў ваду.* Хвёдараўка Краснап.

РЫЗАРІ́ЦЬ, *дзеясл.* Разбурыць. *Во уредный ідыл: прішоў і рызаріў — нячыстыя сіла, а ні чылавек.* Арцёмаўка Міласл.

РЫЗАСЬМЕ́ЛІЦЦА, *дзеясл.* Адважыцца, набрацца смеласці, адвагі. *Ён быяўся йсьці туды, а потым рызасьмеліўся і ткі пашоў.* Палуж Краснап.

РЫЗВА́ЖВЫЦЬ, *дзеясл.* Разважваць. *Німа чым рызважвыць, дывай меркыю падзелім.* Журбін Бялынкав.

РЫЗВА́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Разважваць. *Купілі агулым, а пысьля рызважылі пы пайпуду ны брата.* Парадзіна Мсцісл.

РЫЗВАЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Разваліцца, разбурыцца. *Рызваліцца ваша гаспыдарка; і навошта гэты падзел — жылі б разам усе.* Ушакі Чэрык. *Лазьня наша хутка рызваліцца.* Хоцімск. *Во склаў капу — вецір дуніць, дык і рызваліцца.* Парадзіна Мсцісл.

РЫЗВАРО́Т, -а, *м.* 1. Разварот, развод зубоў у піле. *У етый піле малэй рызварот, дык цяжка піліць — зысідае.* Хвёдараўка Міласл. 2. Цыркуль. *Дай рызварот дно ў дзежцы адчырціць.* Там жа.

РЫЗВАРУ́ХА, -і, *ж.* Разруха. *Тыкая рызваруха пыйшла, што быранi божа.* Палуж Краснап.

РЫЗВЫЖА́НЬНЯ, -я, *н.* Разважанне. *З твайго рызвыжання нічога ня будзіць.* Бяседавічы Хоцім.

РЫЗВЫЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Разважаць. *Нечыга тут рызвыжаць доўга, нада прініmацца за дзела.* Гібалы Касцюк.

РЫЗВЫЛА́КЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Расцягваць. *Ні з двыра трэба рызвылакывыць, а ў двор нывылакывыць: у хызяйстві усё прыгадзіцца.* Канічы Касцюк.

РЫЗГАВО́РА, -ы, *ж.* Размова. *Аграном завёў з намі рызгавору пра лубін, кажыць, ён карысны.* Палуж Краснап. *Яны перве дужа громкыю рызгавору мелі, а тады ён як хлопнець дзьверру і пашоў.* Пірагова Мсцісл.

РЫЗГАВО́РЧЫСТЫЙ, *прым.* Разгаворлівы, гаваркі. *Дзед быў рызгаворчыстый.* Ельня Краснап.

РЫЗГАРНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Разгарнуцца, расхіліцца. *Рызгарнуліся полы ў кажусе, дык холадна стала.* Зоры Чэрык.

РЫЗГАРНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Разгарнуць. *Рызгарнуў зьверху трохі — а там што робіцца!* Парадзіна Мсцісл.

РЫЗГУЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Разгуляцца, [пачаць] гуляць азартна. *Нешта наш хлопіц рызгуляўсь і есьці не хочыць іціць — ніхай гуляіць.* Азерцы Клім.

РЫЗГЫМА́НІВЫЦЬ, *дзеясл.* Гаманіць. *Кінь ты ўжо рызгыманівыць, пыра йці двору.* Хоцімск.

РЫЗДАБЫ́ТКІ, -аў, *мн. л.* Пошукі, здабыткі. *У нас ужу хлеба німа, нада іціць куды-небудзь у рыздабыткі: ці к сваім схадзіць пазычыць, ці купіць дзе.* Арцёмаўка Міласл.

РЫЗДАБЫ́ЦЬ, *дзеясл.* [Раздабыць], здабыць. *Дзе б мне рыздабыць грошы рублёў з сорак, хто б мне пазычыў?* Куляшоўка Клім.

РЫЗДАВІ́ЦЬ, *дзеясл.* Раздушыць. *Я нагою рыздавіў пампушку.* Турэйск Краснап.

РЫЗДА́ЎЛІНЫЙ, *прым.* Раздушаны. *Ны дарозі ляжыць рыздаўліныя люгашка — кылясом яе рыздавіла.* Янаўка Мсцісл.

РЫЗДРА́ЖНІНЫЙ, *прым.* [Раздражнены]. *Рыздражніныя сыбакі кінуліся ўсьлед.* Пірагова Мсцісл.

РЫЗДРАЖНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Раздражніць. *Нада ж было так рыздражніць сыбаку, што ён чуць ні ўкусіў.* Слаўнае Мсцісл.

РЫЗДРА́ПЫНЫЙ, *прым.* Падрапаны. *Ні гуляй з катом, ато будзіш з рыздрапыным ліцом хадзіць.* Парадзіна Мсцісл.

РЫЗДРА́ПЫЦЬ, *дзеясл.* Падрапаць. *Кот мне чыста руку рыздрапыў — кроў ідзець.* Прусіна Касцюк.

РЫЗДУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Раздзімацца. *А ў майго кыня храпы аж рыздуваюцца ад страху.* Барысавічы Клім.

РЫЗДЫБА́РЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Гаварыць абы-што. *Ні рыздыбарый дужы тут!* Палуж Краснап.

РЫЗІВА́ТЫЙ, *прым.* [Разяваты], разявісты. *Хоць і бальшэй хлопіц, а рызіватый.* Палуж Краснап.

РАЗЛАПУШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Разагнаць, разбіць. *Усіх рызлапушу — ні пыдхадзі!* Палуж Краснап.

РЫЗЛУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Раззлавацца, зазлаваць. *Міхась рызлуваўсь на хлопцыў, што ні пыдыждалі яго.* Машавая Бялынкав.

РЫЗМА́ХЫВАЦЬ, *дзеясл.* Размахваць. *Ні рызмахывай так, ато біла зломіш.* Бяседавічы Хоцім.

РЫЗМАЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Размачыць, намачыць. *Нада рызмачыць борыны, ато быранькі пырассохлісь і ўсі кляцы павысыплюцца.* Бяседавічы Хоцім.

РЫЗМУНДЫ́КЫВАЦЬ, *дзеясл.* Казаць глупства, гаварыць абы-што. *Ні рызмундыкывай са мной, я етыга глупства і слухаць ні хачу.* Хвёдараўка Краснап.

РЫЗМЫЗГЫТА́ЦЬ, *дзеясл.* Разбіць. *Рызмызгытала міску.* Палуж Краснап.

РЫЗМЯДЖУ́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Раздушыць, расціснуць. *Ты, Іван, калі ўзвалісься ны мяне, дык усяго рызмяджуліш.* Канічы Касцюк.

РЫЗЫБРА́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Разабрацца, разабраць. *Нада раньшы рызыбрацца— хто віныват, ны таго і крычы, а ны мяне ты біспрічынна ныпыдаіш, я нічога ні знаю і ні ведыю.* Арцёмаўка Міласл. 2. Распрануцца, раздзецца. *Прышоў хлопіц позна, ні зыпальваючы сьвітла, рызыбраўся дый лёг спаць.* Палуж Краснап.

РЫЗЫБРА́ЦЬ, *дзеясл.* Разабраць. *Як пычаў шыпілявіць, дык нічога ні рызыбраць.* Барысавічы Клім. *Нешта ён мне шушкаў на вуха, але я нічога ні рызыбрала.* Гарадок Міласл.

РЫЗЫЗНА́ЦЬ, *дзеясл.* Разведаць, даведацца, дабыць весткі. *Я рызызнаў, што будуць дываць ськідку.* Цівецкая Краснап.

РЫЗЫРВА́ЦЬ, *дзеясл.* Разадраць, падраць. *Рызырваў паперку на мэтлыхі.* Хвёдараўка Краснап.

РЫЗЬБІВА́КА, -і, *м.* Разбойнік. *Суседзі быяцца і зычапіць Напрэя — ведыюць, якей ён рызьбівака.* Маластоўка Краснап.

РЫЗЬВІДНЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Развіднець. *Каровы пашлі ў поля, як рызьвіднела.* Маластоўка Краснап.

РЫЗЬВЯ́РЧЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Разверчваць, распакоўваць, развязваць. *Бацька прывёз дзецім з горыду гасьцінцы, і яны пычалі рызьвярчывыць.* Маластоўка Краснап.

РЫЗЬДЗІВА́ЦЦА, *дзеясл.* [Раздзявацца], распранацца. *Нінада рызьдзівацца, тут ёсьць кладка, па ёй можна піряйціць.* Бяседавічы Хоцім. *Ні разьдзівайся, бо ў нас холадна — адубянеіш.* Касперка Міласл.

РЫЗЬДЗІЎБА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Раздзяўбаць, раскляваць. *Я хацела пыймаць піскльонка, а курыца як кінулыся ны мяне, дык чыста руку рызьдзіўбала.* Парадзіна Мсцісл. 2. Зразумець, сцяміць, разабрацца ў чым. *Во калі я рызьдзіўбаў, што ён хоча!* Парадзіна Мсцісл.

РЫЗЬЗЯ́ПІЦЬ, *дзеясл.* Расчыніць. *Зычыняй скарей вокны, рызьзяпіла, як быццам ня відзіш, што туча тыкая находзіць.* Слаўнае Мсцісл.

РЫЗЬЛІТА́ЦЦА, *дзеясл.* Разлётацца, пачаць лятаць. *Сяньні многа мятлушык рызьліталысь.* Касцюковічы.

РЫЗЬМЯЖДЖУ́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Разбіць [размажджэрыць]. *Усю гылаву яму рызьмяжджуліў, ну, ён і памёр.* Парадзіна Мсцісл.

РЫЗЬНЯСЬЦІ́, *дзеясл.* Разнесці, распухнуць. *У жонкі трыперсьціца — усю руку рызьнясло.* Хвёдараўка Краснап.

РЫЗЯ́ВА, -ы, *ж.* Разява. *Чаго глядзіш рызявый?* Хвёдараўка Краснап.

РЫЗЯ́ВІЦЬ, *дзеясл.* Разявіць. *Рызявіў воўк цяпу.* Хвёдараўка Краснап. *Рызяў шырэй рот, ато ніхто ні чуіць твайго крыку.* Балакеры Мсцісл.

РЫЗЯ́НКА, -і, *ж.* Посцілка, вытканая з рыззя. *Мама выткала і пашыла рызянку, добра акрывацца ёю—цёпла.* Глінь Касцюк.

РЫЗЯ́ПА, -ы, *ж.* Разява. *Во рызяпа! Стаіць, разінуў рот, а сала ў печы выгарала.* Парадзіна Мсцісл.

РЫЗЯ́ПІЦЬ, *дзеясл.* Разявіць. *Чаго ты рызяпіў рот?* Хвёдараўка Краснап.

РЫЙСК, -у, *м.* Рызыка. *Я ўжо на рыйск пайшоў — так ці ні так, се роўна.* Б. Хутары Краснап.

РЫ́КНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Рыкнуць, зарыкаць. *Карова рыкнула кыля варот.* Тур'я Краснап. 2. Закрычаць злосна. *Ён так рыкнуў ны яго, дык у таго аж калені задрыжэлі ад сполаху.* Там жа.

РЫЛЬЛЁ, -я, *н.* Ралля. *Свежае рыльлё, а ўжы пырасло травою.* Лешчынка Мсцісл.

РЫМАЦІ́ЗНЫЙ, *прым.* Раматусны. *Во ета самыя, што цьвіцець белым цьветам, і ёсьць рымацізныя трыва.* Хвёдараўка Краснап.

РЫМА́ШКА, -і, *ж.* 1. *бат.* Рамон. *Красівыя краска рымашка — беленькыя, а ў сярэдкі жоўцінька.* Арцёмаўка Краснап. 2. *бат.* Рамонак. *Рымашку сушуць, варуць у чугунах і п'юць, як лікарства.* Пірагова Мсцісл.

РЫ́НА, -а, *н.* Жолаб, па якім вада цячэ на кола ў млыне. *Пруднік зыставіў рына.* Крычаў.

РЫ́НКА, -і, *ж.* Гліняная міска. *Як жа*

*гэта ты пабіла рынку?* Шэпілава Жлобін. *Матка нылíла крупені ў рынку.* Ясень Краснап.

РЫ́НУЦЬ, *дзеясл.* Кінуць. *Кінуць-рынуць, а ты за імі прыбірай!* Добрае Мсцісл.

РЫ́ПАЦЬ, *дзеясл.* Рыпаць. *Ні йграя, а толькі рыпыя ны гармоні.* Палуж Краснап.

РЫПІ́НА, -ы, *ж.* Уласнае імя Агрыпіна. *Рыпіна пашыла сабе камлёт.* Зялёны Луг Мсцісл.

РЫПУТУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Есці гучна якую-небудзь зеляніну. *Глядзі свайго кыня, ато ён рыпутуіць капусту ны гародзі.* Куркаўшчына Мсцісл.

РЫСА́ДА, -ы, *ж.* Расада. *Нада пасеіць рысады адзе-нібудзь, ато калі пынадзеіцься на чужую рысаду, дык біс капусты астанісься.* Арцёмаўка Міласл.

РЫСА́ДНІК, -а, *м.* Маленькі гародчык. *Кыла хаты зыгароджан рысаднік, у якім пысаджыны усякія цьвяты.* Слаўнае Мсцісл.

РЫСК, -у, *м.* Рызыка. *Пайду на рыск — што будзе, тое няхай будзе.* Гібалы Касцюк.

РЫ́СКА, -і, *ж.* Рыска. *Сьпірша абвядзі рыскай, а потым вырыжаш.* Пячкоўка Мсцісл.

РЫСКА́З, -а, *м.* Расказ, апавяданне. *Харошый рысказ прачытаў.* Б. Хутары Краснап.

РЫСКА́ЗЫВАЦЬ, *дзеясл.* Расказваць. *Кыла дзеда сыбраліся ўсі дзеці, і ён ім рысказываў казкі.* Пірагова Мсцісл. *Сыбралісь хлопцы ў гурток ды рысказываюць усякія страхі.* Ушакі Чэрык. *Яго пытаюць пра 'дно, а ён пачынаець рысказываць пра іншае.* Ганнаўка Клім.

РЫСКАЛО́ЦЦА, *дзеясл.* Раскалоцца. *Кацёлка ў навоі рыскалолысь, пряжа будзіць зыжджаць.* Хвёдараўка Краснап.

РЫСКАЛО́ЦЬ, *дзеясл.* Расколоць. *Хоць бы ты рыскалоў палена дроў якоя, ато сядзіш так бяз дзела.* Пашкавічы Мсцісл.

РЫСКА́ТЫВЫЦЦА, *дзеясл.* [Раскатвацца], гушкацца. *Хлопчык етый во любіць у люлькі кылыхацца: сядзіць у люлькі, возьміцца зы пачопкі і дывай рыскатывыцца.* Арцёмаўка Міласл.

РЫСКАШЫ́РЫЦЦА, *дзеясл.* Сесці раскошна, заняць больш месца. *Іш, як рыскашырыўся — на ўвесь слоніц!* Маластоўка Краснап.

РЫСКВАСІ́ЦЬ, *дзеясл.* Расквасіць, разбіць да крыві. *Дзе ета ты нос рысквасіў?* Рылаўшчына Мсцісл. *Зычапіўся за корч нагою, упаў і нос рысквасіў.* Горня Хоцім.

РЫСКВЫХТА́ЦЦА, *дзеясл.* Расквахтацца, заквахтаць. *Калі курыца расквохчыцца, а хызяйка ня хочыць садзіць яе на яйцы, яна кідаіць яе дні на тры ў погрыб.* Пірагова Мсцісл.

РЫСКІДА́ЦЬ, *дзеясл.* Раскідаць, растрасаць. *Пойдзем ны йсьцяроб сена рыскідаць.* Хвёдараўка Краснап.

РЫСКЛА́Д, -у, *м.* Расклад [растэрміноўка]. *Купіў мылытарку ны рысклад — па дваццыць рублёў у месяц буду выплачваць.* Палуж Краснап. *Штоб плаціць ні зыраз, а штоб на рысклад, то я б купіў, а так — грошы ні хопіць.* Радзіонаўка Мсцісл.

РЫСКЛА́СЬЦЬ, *дзеясл.* Раскласці. *Пастухі рысклалі цяпло кыла лесу.* Кокатава Мсцісл. *У дуплявым дубі хлопцы рысклалі агонь, дык ён згарэў знутра і пываліўсь.* Негін Касцюк.

РЫСКЛЫДА́ЦЬ, *дзеясл.* Раскладваць. *Хлопцы, рысклыдайця цяпло ды пайдзём у бульбу.* Бяседавічы Хоцім.

РЫСКЛЫЧО́НЫЙ, *прым.* Расклочаны. *Гылыва рысклычона, як у бырына — прычашыся троху!* Нашкавічы Мсцісл.

РЫСКУДА́ХЫЦЦА, *дзеясл.* Раскудахтацца. *Нешта сяньні ўночы куры рыскудахылісь на крусодні, ці ня тхор там зьявіўсь?* Пірагова Мсцісл.

РЫСКЫЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Расказаць. *Я рыскызала так, як нада, а іна ўсё пераврзла.* Парадзіна Мсцісл.

РЫСПАГО́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Распагодзіцца, устанавіцца пагодзе. *Перве быў дождж, а січас рыспагодзілась.* Хоцімск.

РЫСПА́ЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Распальваць. *Трэба зырані рыспалівыць печ, ато сяньні дровы сырэя.* Канічы Касцюк.

РЫСПАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Распаліць. *Рыспалі вуцюг, мне нада гладзіць плацьця.* Слаўнае Мсцісл.

РЫСПАЛО́Г, -у, *м.* Растэрміноўка. *Купіў кыня ны рыспалог.* Палуж Краснап.

РЫСПАЎЗЬЦІ́СЬ [распо́ўзсца], *дзеясл.* Параспаўзацца. *Дзеці рыспаўзлісь па лесі — ні сыбраць.* Парадзіна Мсцісл.

РЫСПА́ШКА, -і, *ж.* Сошка для акучвання бульбы. *Бяры рыспашку, нада бульбу рыспыхаць.* Хвёдараўка Краснап.

РЫСПА́ШНІК, -а, *м.* Сошка для акучвання бульбы. *Я прынёс рыспашнік гыняць бульбу.* Людагошч Мсцісл. *Рыспашніка нада пазычыць ды бульбу рыспыхаць.* Вярбоўка Расням.

РЫСПІРІЗА́НЫЙ, *прым.* Рысперазаны. *Што ты, Трахім, ходзіш рыспірізаный, ці ў цябе пыіса німа?* Канічы Касцюк.

РЫСПІРІЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Расперазаць. *Матка рыспірізала хвартух, узіла мутузы ў рукі і дывай лупіць хлыпца.* Арцёмаўка Міласл.

РЫСПЛІСКА́НЫЙ, *прым.* [Расплюханы], разліты. *Прынісла гырлач мылыка, ды ўвесь рыспліісканый.* Пірагова Мсцісл.

РЫСПЛІСНУ́ЦЬ, *дзеясл.* [Расплюхаць], разліць. *Я няўмысьля рыспліснуў мылако з блюдзічка.* Слаўнае Мсцісл.

РЫСПЛЯСЬЦІ́ [распле́сьць], *дзеясл.* Расплесці. *Нада рысплясьці етый бізун, ато ён ні ладна сплецены.* Гарадок Міласл.

РЫСПРАНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Распрануцца. *Увайшлі яны ў хату, рыспрануліся і пыпрасілі паесьць.* Пірагова Мсцісл.

РЫСПРЫНА́ЦЦА, *дзеясл.* Распранацца. *Толькі што ў хату ўвайшоў і пычаў рыспрынацца, а тут ізноў крічаць ісьціць, а быдай ты згарела!* Касцюшкавічы Крыч.

РЫСПРЫСТА́НЫЙ, *прым.* Распластаны [распасцёрты]. *Падбеглі мы к яму, а ён ляжыць рыспрыстаный і няжывый ужо.* Пірагова Мсцісл.

РЫСПРЫСТА́ЦЬ, *дзеясл.* [Распасцерці], распластаць. *Сыбакі, як ныпалі ны ваўка,*

*дык рыспрысталі ны ральлі.* Камароўка Крыч.

РЫСПУСКА́ЦЦА, *дзеясл.* Распускацца, зацвітаць. *Вірба ўжо атсычала — рыспускацца пычыла.* Касперка Міласл. *Сонца прыгрэла добря, на тэй нядзелі дрэвы пычнуць рыспускацца.* Глупікі Крыч.

РЫСПУХЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Распухліць, разматлашыць. *Рыспухліў шапычку, паклон б'ючы, ‖ Зымырай хвустычку уціраіся.* З нар. песні, М. Г. 31.

РЫСПЫЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Распыліцца. *Як жа ты малоў? Болі рыспылілась у цябе мукі, чым двору прывёз.* Пірагова Мсцісл.

РЫСПЫРЯ́ДНІЦА, -ы, *ж.* Распараднiца, жанчына, што вядзе парадак у хаце. *Рыспырядніца ў хаці знышлась.* Хвёдараўка Краснап.

РЫСПЫТА́ЦЬ, *дзеясл.* Распытаць. *Нада ў каго-небудзь хырашэнька рыспытаць дарогі, ато тут зыблудзіцца можна.* Арцёмаўка Міласл. *Як сустрэла яе, дык трошкі прыстоіла, рыспытала пра бацькоў.* Старае Сяло Мсцісл.

РЫСПЫХА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Разараць. 2. Абараць [акучыць]. *Бяры рыспашку, нада бульбу рыспыхаць.* Хвёдараўка Краснап.

РЫСПЫЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Распачаць. *Рыспычаў ты бальшоя будаўніцтва.* Касцюковічы.

РЫСПЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Распяць, расцягнуць. *Цыгані ўжо рысьпялі свае шатры.* Палуж Краснап.

РЫССА́ДА, -ы, *ж.* Расада. *Сёліта ў мяне свыя рыссада, купляць у горыдзі ня буду.* Пірагова Мсцісл.

РЫССМЫРЬГА́ЦЦА, *дзеясл.* Рассморгацца. *Высмырьгый ты хырашэнька нос, бо пряціўна слухыць: адно смырьгаіць, рыссмырьгаўсь і ні сьціхаіць.* Бяседавічы Хоцім.

РЫСТАРО́П, -у, *м.* 1. Цямкі, растропны, разумны. *О, ён, брат, ня спусьціць! Такій рыстароп, што паспробый-ка справіцца за ім!* Пірагова Мсцісл. 2. Бездараж. *Ой, якей, рыстароп, ні прайціць ні праехыць.* Хвёдараўка Краснап.

РЫСТАРО́ПІЦА, -ы, *ж.* Бездарожжа. *Еткыя рыстаропіца, што ні вылізьць, а ён у горыд паехаў.* Добрае Мсцісл.

РЫСТАШЧЫ́ХА, -і, *ж.* Жанчына, што не глядзіць за дабром, распускае яго. *Баба твыя рысташчыха, не ны хызяйстві ёй жыць.* Хвёдараўка Краснап.

РЫСТЛУМА́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Растлумачыць. *Трахім рыстлумачыў нам, як дайсьці ды таго чылавека і што ў яго прасіць.* Краснаручча Расням.

РЫСТЫВА́ЦЦА, *дзеясл.* Раставацца. *Пычалі рыстывацца, дык і зыплакылі абоя.* Арцёмаўка Міласл.

РЫСТЫПТА́ЦЬ, *дзеясл.* Растаптаць. *Наперстык упаў ны зямлю, а я нейк ныступіла і рыстыптала.* Залесавічы Крыч. *Бот мой правый быў сьпірша цесный, а січас нічога — рыстыптаў, дык ні цісьнець.* Бабынічы Мсцісл.

РЫСТЫУХА́ЦЬ, *дзеясл.* Расштурхаць. *Ну й крэпка ты сьпіш! Чуць рыстыўхалі цябе!* Пірагова Мсцісл.

РЫСЧАПІ́ЦЦА, *дзеясл.* Развязацца. *Мне нада з ім рысчапіцца, аддаўшы доўг, дык ня ймею грошы.* Слаўнае Мсцісл.

РЫСЧЫРКНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Расписацца. *Калі далі грошы, трэба рысчыркнуцца.* Хвёдараўка Краснап.

РЫСШАЛО́ПІЦЦА, *дзеясл.* Разабрацца. *Ён толькі цяпер рысшалопіўсь, што кыла яго сьмяюцца.* Крывы Лес Шумяч. *Ён ізь дзелым рысшалопіўсь.* Хвёдараўка Краснап.

РЫСШЫРЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Пашыраць. *Як стаў ён рысшыряць свае хызяйства, дык у чатыры гады стаў первым быгачом у сяле.* Бяседавічы Хоцім.

РЫСЬКІРА́КА, -і, *м.* і *ж.* Раскірака. *Рыськірака ты чортыва: ідзець, дык нагою як быраной грабець.* Ушакі Чэрык.

РЫСЬПІКА́ЙЛА, -а, *м.* Чалавек, што любіць сварыцца, распякаць. *Ня будзь ты рысьпікайлый і бізь цябе мотышна.* Хвёдараўка Краснап.

РЫСЬПІНА́ЦЦА, *дзеясл.* Распінацца, горача заступацца за каго-небудзь. *Чаго йта ты дужа рысьпінаісься зы яго, што табе абыходзіць.* Нашкавічы Мсцісл.

РЫСЬПІТУШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Разбіць, разнесці ў мэтлах. *Душу табе рысьпітушу.* Хвёдараўка Краснап.

РЫ́СЬСЮ, *прысл.* Рыссю. *Етый конь ня ўмеіць беч рысьсю, ён ці шагым ідзець, ці наўскач бягіць, пряма прыгыіць.* Арцёмаўка Міласл.

РЫСЬЦІЛА́ЦЦА, *дзеясл.* Рассцілацца. *Ось, трыва дык трыва, як дыван рысьцілаіцца.* Ушакі Чэрык.

РЫСЬЦІРА́ХА, -і, *ж.* Той, хто губляе. *Нічога ні дывай етый рысьцірасі — усё 'дно дзе-нібудзь забудзіць.* Хвёдараўка Краснап.

РЫСЬЦЬВІТА́ЦЬ, *дзеясл.* Расцвітаць. *Расьцьвітаюць ужо сады: вішыньня белым цьветым пакрылыся.* Залачова Мсцісл.

РЫСЬЦЯ́ГА, -і, *м.* і *ж.* Чалавек, што расцягвае дабро. *Рысьцяга ты, рысьцяга, усё з хаты пырысьцягнуў.* Цівецкая Краснап.

РЫСЬЦЯ́ГНУТЫЙ, *прым.* Незашпілены. *У куўнярі вырваўся гаплік, і цяпер так во рысьцягнутый хаджу.* Слаўнае Мсцісл.

РЫСЬЦЯГНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Расшпіліцца. *Што йта ты нешта рысьцягнуўся, ці то так ужо горача табе?* Журбін Бялынкав.

РЫСЬЦЯГНУ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Расшпіліць. *Рысьцягні мне кузік, ато рукі пакрэплі — ні магу сам рысьцягнуць.* Негін Касцюк. 2. Развалачы. *Як шчапіліся яны біцца, дык насілу іх рысьцягнулі.* Вярбоўка Расням.

РЫСЬЦЯРО́БЫ, -аў, *мн. л.* Расцяробы, расцярэблены ад хмызняку луг. *Усі мужчыны пашлі касіць на рысьцяробы.* Маркаўка Хоцім. *У рысьцяробах кыня пасьціві.* Сапрынавічы Мсцісл.

РЫСЯ́НКА, -і, *ж. бат.* Трава расянка. *Рысянку часта можна сустрэць у аборках, а больш усяго ны балотах.* Пірагова Мсцісл.

РЫТУЎЁ, -я, *н.* Чаранок у рыдлёўцы, рутаўё. *У зілізьніку рытуўё злымалысь.* Куркаўшчына Мсцісл.

РЫТЫВАЦЬ, *дзеясл.* Ратаваць. *Як пубачылі людзі агонь, таго часу ж кінуліся рытываць.* Палуж Краснап.

РЫЎНЯЦЬ, *дзеясл.* Параўноўваць. *Пэўна ж, ты будзеш мяне рыўняць ды яго, калі ў мяне толькі надзел зямлі, а ў яго пуўтары — ці адзінакывыя ж мы?* Арцёмаўка Мінасл.

РЫХВА, -ы, *ж.* Рэхва, жалезны абручык, што надзяваецца на ступіцу кола. *Рыхва звалілась, і ступіца треснула.* Бяседавічы Хоцім. *Трэба набіць ны каткі рыхвы.* Турэйск Краснап.

РЫХТУВАЦЦА, *дзеясл.* Рыхтавацца, збірацца. *Бацька з самыга раньня рыхтуецца ў дарогу.* Гібалы Касцюк.

РЫХТЫЧКА, -і, *ж.* Рыса твару [характару]. *У яго ўсі татыны рыхтычкі: і нос, і губы, і бровы — усё бацькыва.* Кокатава Мсцісл.

РЫЦЬ, *дзеясл.* Капаць. *Трэба рыць канаву, ато ўвосінь і ўвесну тут выда застойваіцца.* Хоцімск. *Лыпатыю рыюць зямлю.* Сідараўка Краснап.

РЫЦЬВІНА, -ы, *ж.* Парытае свіннямі месца. *Сьвіньні парылі прыгуменьня на 'дны рыцьвіны.* Хвёдараўка Краснап.

РЫШТ, -а, *м.* Роў, ручэй. *Праз рышт піракінута кладка.* Людагошч Мсцісл. *Хадзі пойдзім кыпаць рышт ны балоці.* Ушакі Чэрык.

РЫШТУВАНЬНЯ, -я, *н.* Рыштаванне. *Дзелый крепкыя рыштуваньня, ато, крый бог, абломіцца, дык паб'еш плотнікаў на сьмерць.* Слаўнае Мсцісл.

РЫШЧАПІЦЬ, *дзеясл.* Расшчапіць, расшпіліць. *Рышчапі мне гаплік пыд барадой, ато сам ніяк ні рышчаплю.* Васілёўка Хоцім.

РЫШЧЫНІЦЬ, *дзеясл.* Адчыніць. *Рышчынілі дзьверы напіта, быццым у маі.* Куркаўшчына Мсцісл.

РЭВАЛЮЦЫЯНЕР, -а, *м.* Рэвалюцыянер. *Дзед бачыў, як казьнілі рэвалюцыянераў.* Сохана Мсцісл.

РЭДЗЬКА, -і, *ж. бат.* Рэдзька. *Дужа ладныя рэдзька пырысла ў нас сёліта.* Зарубец Крыч. *Рэдзька зь мёдым смашна.* Парадзіна Мсцісл.

РЭДКА, *прысл.* Рэдка. *Міхась у нас рэдка калі бываіць.* Рэкта КалінінШчына.

РЭДКІЙ, *прым.* Рэдкі. *У мяне зубы рэдкія, дык надта пыгана — нылазіць паміж зубоў што ясі.* Канахоўка Клім. *Прасла рэдка, дык сьвіньні лезуць у гарод.* Залесавічы Крыч.

РЭДЧЫК, -а, *м.* Паркаль ці наогул рэдка тканая матэрыя. *Ныбрала рэдчыку ны спадніцу.* Хвёдараўка Краснап.

РЭЗАЦЦА, *дзеясл.* [Рэзацца], гуляць азартна ў карты. *Дос-ка вам ужо ў карты рэзыцца, бо вы, здэцца, пычалі абвырганьваць адзін аднаго.* Пірагова Мсцісл.

РЭЗАЦЬ, *дзеясл.* 1. Рэзаць. *Жывадзёр зьбіраіцца рэзаць быдлу.* Палуж Краснап. *Вот табе відэльцы, вот нож — рэж мяса!* Пірагова Мсцісл. *Етыя мела ня пішыць, а толькі дошку рэжыць.* Шарэйкі Касцюк. 2. Пілаваць. *Стынаві казюлькі, ды будзім дровы рэзаць.* Брылёўка Краснап. 3. Муліць. *Абстругай ты добра панажы, ато яны будуць ногі рэзаць.* Аршаншчына. 4. Кусаць, грызці. *Апынталі сыбакі й ну рэзыць, загрызьлі б, каб ні 'тбыранілі людзі.* Старае Сяло Мсцісл.

РЭЗЬ, -і, *ж.* Дробна нарэзаная салома на корм. *Сена ўжо вышла, дык цяпер каровы адну рэзь ядуць.* Хвёдараўка Краснап.

РЭЗЬВІНЫ, -він, *мн. л.* Рэзгіны. *Тодар, вазьмі рэзьвіны ды прынясі конім сена.* Тур'я Чэрык. *Тата прынёс поўны рэзьвіны сена каровым.* Глінь Калінінщчына. *Ні нясі ў ахапкі, а вазьмі рэзьвіны, ато парыстрасеш сена ны дарозі.* Новыя Капачы Мсцісл.

РЭЗЬНІК, -а, *м.* Пампушка, пышка, пшанічная булачка, спечаная ў масле. *На табе рэзьнік, толькі маўчы, ні плач.* Мсціслаў.

РЭЗЬНІЦА, -ы, *ж.* Сячкарня [саламарэзка]. *У Апанаса зламалася рэзьніца, і ён ня мае чым рэзаць рэзь.* Глінь Калінінщчына.

РЭЙКА, -і, *ж.* 1. Вузкая тонкая дошчачка. *Сюды можна пыкласць і рэйку, дык будзіць дзіржаць, а з краю — таўшчэйшую дошку.* Хвёдараўка Краснап. 2. Сэрца, лёгкія, печань у жывёлы. *Цялёнка зарэзалі, дык толькі рэйку сабе пакінулі, а ўсё прыдалі.* Парадзіна Мсцісл. 3. Жалезная шына [ў плузе], да якой прымацоўваецца лямеш і паліца.

РЭЛІ, -яў, *мн. л.* Арэлі. *Дзеці гутаюцца на рэлях.* Палуж Краснап. *Рэлі етыя дзяцей толькі зводзюць — целый дзень гутаюцца і есьці ісьці ня хочуць.* Нашкавічы Мсцісл.

РЭМІНЬ, -мня, *м.* Раменны пас. *Надзеў тулуп, аперазаўсь рэмням і паехаў у лес.* Пірагова Мсцісл.

РЭХВА, -ы, *ж.* Рэхва, жалезны абручык, што нагаляецца на ступіцу кола. *Рэхвы на катку новыя.* Пухнава Раснян.

РЭЧКА, -і, *ж.* Рэчка. *Якоя ж хараство было тут: лес, рэчка, луг, і ўсё пад рукою, блізка.* Ушакі Чэрык. *Міхась злавіў у рэчцы мянтуза.* Лапаціна Мсцісл.

РЭШКА, -і, *ж.* Рэшта, астатак. *Ну, цяпер рэшка ўжо: усё аддаў.* Хвёдараўка Краснап.

РЭШАТА, -а, *н.* Рэшата. *Вазьмі рэшата ды прынясі мякіны сьвіньням.* Куркаўшчына Мсцісл. *Там у рэшаці бобу трохy стаіць — высып яго ў лазобку.* Тур'я Чэрык.

РЮМАЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад рюмка. *Што ета было ў рюмачкі, выда ці лікарствы йкія?* Шарэйкі Касцюк.

РЮМЗА, -ы, *ж.* Румза, плакса. *Ой, ікая ж ты рюмза — плачыш, а німаведыма чаго.* Хвёдараўка Краснап.

РЮМКА, -і, *ж.* Чарка [кілішак]. *Выпіў анну рюмку гарелкі, а ў гылаве зашумела, як ад добрый чаркі.* Новы Дзедзін Мінасл.

РЮ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Раўсці, плакаць. *Дакуль ты будзеш рюсьць, ці ні пыра табе сьціхнуць?* Васілёўка Хоцім.

РЮТУВА́НЬНЯ, -я, *н.* Ратаванне, ратунак. *Німа яму рютуваньня, і дыктары былі і шаптуху прівадзілі — нічога ні пымыгаіць.* Арцёмаўка Міласл.

РЮТУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Ратаваць. *Зьбегліся людзі рютувадь, ды позна ўжо — заліўсь.* Дзеражна Касцюк.

РЯБІ́НА, -ы, *ж. бат.* Рабіна. *Каліна і рябіна хуць абоі красныя, толькі ж рябіна троху святлей.* Арцёмаўка Міласл.

РЯБІ́ЧКА, -і, *ж.* Дошчачка з праколатымі дзірачкамі, служыць для рэгулявання нацяжэння палатна ў кроснах. *Пірістаў гвозьдзік у рябічкі, ато саўсім аб'ехыла пылатно.* Бяседавічы Хоцім.

РЯ́БЫЙ, *прым.* Рабы. *Рябыя, халодныя жаба прыгнула ны нагу.* Арцёмаўка Міласл. *Ладныя дзеўка, толькі адна зыгана — рябыя, ліцо восьпіныя.* Журбін Бялынкав.

РЯДНІ́НА, -ы, *ж.* Радніна, грубая тканіна. *Рядніну ткаць мутрана.* Юркаўка Крыч. *З радніны пашыў сабе пінжак ды хаджу вось.* Шэвялёўшчына Мсцісл.

РЯДНО́, -а, *н.* Радно. *Бацька лёг спаць і пакрыўся рядном.* Ясень Краснап.

РЯДО́К, рідка́, *м.* Радок. *Етый рядок я ні прачытаю — дужа ніразборчыва напісана.* Азерцы Клім.

РЯДО́ЎКА, -і, *ж.* Чарга. *Падыйшла мыя рядоўка кароў гнаць.* Хвёдараўка Краснап. *Чаму ты мне кажыш ехыць у падводы, я ж сваю рядоўку атбыў?* Прусіна Касцюк.

РЯ́ЖКА, -і, *ж.* Ражка, пасудзіна на памыі. *Пыд лаўкай стаіць ряжка — туды й выліі етыя памыйкі.* Рылаўшчына Мсцісл.

РЯ́МА, -ы, *ж.* Рама. *У вакно ўстаўліна новыя ряма.* Машавая Бялынкав.

РЯМЕ́ННЫЙ, *прым.* Раменны. *У яго конь харошый, калёсы новінькія і збруя ряменныя уся ат хымута да пугі.* Арцёмаўка Міласл.

РЯПУ́ХА, -і, *ж.* Рапуха, жаба. *Куры ў быразьне знайшлі ряпуху і дывай яе кліваць, а йна прыгыіць, уцікаіць.* Сохана Мсцісл.

РЯТУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Ратаваць. *Людзі добрыя, рятуйце, ён жа мяне заб'ець!* Вербеж Чэрык.

РЯТУ́НЫК, -нка, *м.* Ратунак. *На рятуньк зьбеглысь уся вуліца, толькі ўжу було позна.* Арцёмаўка Міласл.

РЯХЛЮ́ДЗЬЗЯ, -я, *н.* Старызна. *Ськінь ты сваё ряхлюдзьдзя, ні смішы людзей, надзень харошыя плацьця.* Палуж Краснап.

РЯХЦЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Тарахцець. *Нехта ны калёсых ряхціць. Як пычануць бегыць пы лавах, дык аж усё ряхціць.* Палуж Краснап.

РЯЧУ́ШКА, -і, *ж.* Рачулка, невялічкая рэчка. *Кыла нашыя дзярэўні цячэць невялічкая рячушка, ды й тая балоцістая.* Пірагова Мсцісл.

РЯШО́ТКА, -і, *ж.* Сані з задком, спінкаю. *Нада запреч у ряшотку, ато на розвыльніх дренна ехыць. У ряшоткі пріхілісься сьпіною і сена можна большы ныкласьць, яно чыріз драбінку ня суріцца.* Арцёмаўка Міласл.

РЯШО́ТНІК, -а, *м.* Рашэтнік, майстар, што робіць рашоты. *У мінулым годзе пы нашый дзярэўні хадзіў ряшотнік з Калугі, дык я быў пынадзелый тры рэшыта, а во глядзі ты, за год пыдраліся.* Міцькаўшчына Мсцісл.

РЯШЭ́НЬНЯ, -я, *н.* Пастанова. *Суд выніс ряшэньня кыня атдаць Ігнату, а карову сь цёлкай Агріпіні.* Клімавічы.

РЯШЭ́ТНІК, -а, *м.* Тонкія жэрдачкі, што кладуцца на ключы страхі, а на іх ужо кладзецца і прывязваецца салома. *На крышу зыгатоўлен ряшэтнік.* Машавая Бялынкав. *Ряшэтнік пагнііў, і крыша прывалілась.* Бяседавічы Хоцім.

# С

С, *прыназ.* З. *Ён накінуўсь ны мяне с кулыкамі.* Слаўнае Мсцісл. *Нанырва бі, пытаму што ты біў ня с кону.* Бяседавічы Хоцім.

СА, *прыназ.* З. *Са палуначы быў дождж, а к ранку рыспагодзілась.* Хоцімск. *Янка пайдзе са мною ў ягыды.* Ракоўшчына Раснян.

САБА́КА, -і, *м.* Сабака. *Сабака паеў усё мяса з цугуна.* Пірагова Мсцісл. *Кінь ты ўжо вякаць, як сабака, ато надаела слухаць.* Касцюковічы. *Сабака пад сталом грызець масол.* Вінаградаў Міласл.

САБА́КІ, саба́к, *мн. л.* Гульня. *Дывайця гуляць у сабакі.* Шарэйкі Касцюк.

САБА́ЧКІ, -чык, *мн. л.* 1. *бат.* Львіны зеў (кветка). *Сабачкі бываюць жоўтыя і сінія, у нас у садзе — толькі сінія.* Пірагова Мсцісл. 2. Прылада ў кроснах, якая трымае набілкі на патрэбнай вышыні. *Пыдвяжы, Марыля, сабачкі, ато набілкі нізка — дрэнна ткаць.* Новыя Капачы Мсцісл.

САБА́ЧЫЙ, [саба́ччый], *прым.* Сабачы. *Цягніцца, як сабачы хвост, за мною.* Ракоўшчына Раснян. *Сабача морда.* Глупікі Крыч.

САБА́ЧЫЙ РАМО́Н, Рамонак. *Сабачы рамон старухі зьбіраюць на лекарствы ці прадаюць у аптэку.* Пірагова Мсцісл. *Нада нырваць сабачыга рамону ды насушыць — ад прастуды добра.* Барысавічы Клім.

САБІРА́ЦЬ, *дзеясл.* Збіраць. *Сабіраець кусочкі, як старіц.* Лапаціна Мсцісл.

САБО́РНЫЙ, *прым.* Зборны. *Сылдытня йдзець ны саборны двор.* Канахоўка Касцюк.

САБРА́НЬНЕ, -я, *н.* Сход. *Сабраньне будзець наверсе, у зале.* Пірагова Мсцісл.

САБРА́ЦЦА, *дзеясл.* Сабрацца. *Сабраліся хлопцы ў гурток ды гутараць.* Ушакі

Чэрык. *Сабраліся йці ў лес, ды дождж пашоў.* Пірагова Мсцісл.

САБРА́ЦЬ, *дзеясл.* Сабраць. *Патрэп'я нада сабраць і будзем абтыкаць шчэлкі.* Новыя Капачы Мсцісл. *Калі ўсі мяхі апрасталіся, яна сабрала іх і занісла ў інбар.* Пірагова Мсцісл.

САВА́, -ы, *ж.* 1. Сава. *Сава пісклят падушыла.* Мацутаўка Расням. 2. Дзіцячая гульня. *Дзеці гуляюць у саву.* Шарэйкі Касцюк.

САВЕ́Т, -а, *м.* 1. Парада. *Які табе даць савет у етым дзелі? Дзелый, як сам знаеш.* Касцюшкавічы Крыч. *Прахор усяму дзелу зывыдатый, бізь яго, як кажуць, і савета ні було б.* Палуж Краснап. 2. Савет, заканадаўчы орган улады. *У нас з ім быў згавор, каб ехаць у Савет у калядный мясыід.* Пірагова Мсцісл. *Савет зьвялеў даць пяць падводаў.* Палуж Краснап.

САВЕ́ТНІЦА, -ы, *ж.* Белая тонкая пасцілка, прасціралда. *Ой, якую ты прыгожую саветніцу зыслала на кырвваць.* Хвёдараўка Краснап.

САВЕ́ЦКІЙ, *прым.* Савецкі. *Наша Савецкыя дзіржава вялікая.* Сохана Мсцісл. *У нас цяпер Савецкыя ўласьць.* Арцёмаўка Міласл.

САВІ́ЦЬ, *дзеясл.* Звіць. *Трэба савіць вярёўку.* Палуж Краснап.

САГНУ́ТЫЙ, *прым.* Сагнуты. *Чаму ў цябе палка тыкая сагнутыя?* Серчыцы Краснап.

САГНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Сагнуцца. *Шморін сагнуўся, дык вось выкручвыйцца.* Дарагая Крыч. *Чаго ты так сагнуўся — жывот баліць ці што?* Васілёўка Хоцім.

САГРЭ́ЦЦА, *дзеясл.* Сагрэцца. *Так зьмерз, што ніяк сагрэцца ні магу.* Верба Расням. *Хукый на рукі, дык сагрэйсься.* Хвёдараўка Краснап.

САД, -а, *м.* Сад. *Нысячы ў лясу лескі, нада зыгырадзіць сад.* Слаўнае Мсцісл. *У нас у садзе тры яблыні і дзьве грушы.* Усполле Расням.

САДАВІ́НА, -ы, *ж.* Садавіна, плады садовых дрэў. *У гэтым годзе добрая садавіна зарадзіла.* Крычаў.

САДЗЕРЖА́ЦЬ, *дзеясл.* [Трымаць], утрымоўваць. *Іна яшчэ, апроч мужыка свайго, бахыря садзержыць.* Слаўнае Мсцісл.

СА́ДЗІК, -а, *м.* Памянш. ад сад. *Пірід хатый ат вуліцы зыгароджын садзік нібальшэй.* Расна.

САДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Садзіцца. *Садзіцесь ны лаўку, пасядзіце троху.* Янаўка Мсцісл. *У кіно нільзя блізка садзіцца, у вычах дужа мітусіцца, аж гылыва зыбалела.* Арцёмаўка Міласл.

САДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Садзіць. *Заўтрі будзім садзіць капусту.* Гарбавічы Касцюк. *Курыца заквыхтала, нада ны яйцы садзіць.* Пірагова Мсцісл. 2. Класці снапы на ток ці ў асець. *Рассунь там пятры, будзім садзіць снапы.* Брылёўка Краснап.

САДКУ́ЛЯ, *прысл.* Адкуль. *Садкуля ты прышоў, мы цябе ні бачылі?* Іванаўка Хоцім.

СА́ДНІЦЬ, *дзеясл.* Балець, ныць. *Болька саднія.* Хвёдараўка Краснап. *Апёк руку, дык садніць дужа.* Куляшоўка Клім.

САДО́К, -дка, *м.* Памянш. ад сад. *Нада выгыдываць садок, ніхай унукам будзіць.* Слаўнае Мсцісл. *Ідзём у садок, там дзед мёду нам дасьць.* Бяседавічы Хоцім.

САДО́ЎКА, -і, *ж.* Садовая яблыня. *Ведыю на полі яблынку, дык як садоўка.* Хвёдараўка Краснап.

САДЭ́НЬНЕ, -я, *м.* Нутро. *Сын бацьку ўсё садэньня пірывярнуў сваім былаўствам.* Палуж Краснап.

САЖА́, -ы, *ж.* Сажа. *Сажа ў коміне зыгарэлась.* Залачова Мсцісл. *У чылесьніку дужа многа сажы сыбралося.* Машавая Бялынкав.

СА́ЖАЛКА, са́жылка, -і, *ж.* Сажалка. *Мы нымачылі пяньку ў сажалку — ніхай мякнець.* Карма-Пайкі Краснап. *Сёліта сажалка высыхла, і пяньку мачыць негдзе.* Пацкава Мсцісл. *Ны аборку была сажылка.* Цірэні Расням. *Мы нымачылі пяньку ў свяёй сажылкі, толькі вады ў ёй мала і абруб абваліўсь.* Арцёмаўка Міласл. *Мы заўтра будзім мачыць пяньку ў вашу сажылку.* Бялішчына Мсцісл.

САЙСЬЦІ́, *дзеясл.* Зысці. *С крышы па лесьвіцы можна сайсьці ўніз.* Бяседавічы Хоцім. *Етый абапылык за дошку сойдзець.* Мсціслаў.

САК, -а, *м.* Жаночае паліто. *Мар'я надзела сак і пайшла к матцы ў госьці.* Малюшын Краснап. *Я пашыла сабе новэй сак.* Серчыцы Краснап.

САКА́, -і, *ж.* Асака. *Міла паходжыя ны саку.* Хвёдараўка Краснап.

САКРУШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Засмуціць. *Ты мяне етым сакрушыў.* Радзілёў Краснап.

СА́ЛА, -а, *н.* Сала. *Вар гатоў, нясі муку, буду кылаціць кулеш, а ты жарь сала, скарей будзіць справа.* Слаўнае Мсцісл. *Кыбына пыра ўжо біць ны сала.* Шчыпаў Расням.

САЛАМАРЭ́ЗКА, -і, *ж.* Машына рэзаць салому на корм, сячкарня. *Саламарэзку сабе купіў, цяпер буду рэзыць салому на рэзь.* Камароўка Крыч.

САЛАНЕ́ШНІК, -а, *м.* Сланечнік. *Дзеці любяць садзіць па градах саланешнік і потым, як вырасьцець, ядуць семя.* Пірагова Мсцісл.

САЛА́ТА, -ы, *ж. бат.* Салата. *Бягі ў гарод нарві салаты, дык я зьдзелыю на сьніданьня.* Касцюковічы.

САЛДА́Т, -а, *м.* Салдат. *Салдаты паехалі і кулямёт павязьлі зы сабою..* Горня Хоцім.

САЛДА́ЦІК, -а, *м.* Цацка, конік-свістулька. *Тата купіў мне на кірмашы салдаціка.* Шарэйкі Краснап.

САЛО́ДАСНА, *прысл.* Прыемна, хараша. *Ён так салодасна пяе, аж адыходзіцца ня хочыцца.* Сапрынавічы Мсцісл.

САЛО́ДКА, *прысл.* Соладка. *А што, салодка? А ты не хацеў браць.* Маляцічы Крыч.

САЛО́ДКІЙ, *прым.* Салодкі. *Бярозавік салодкі. Дзеці дралі з асіны салодкыю мязку і елі.* Юшкавічы Расням.

САЛО́ДКЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Салодкасць. *У етых канхвет ніякый салодкысьці ні слышна.* Горня Хоцім.

САЛО́МА, -ы, *ж.* Салома. *Салома з-пад мылацілкі — рыгыза нейкыя, яе ніяк ні скла-*

*дзеш у стог.* Касперка Міласл. *Шмат кулёў саломы ляжала на гумне.* Белы Мох Мсцісл. *На вільчык саломы нада націгаць.* Крычаў.

САЛО́МІНА, -ы, *ж.* Саломіна. *Хлопчык ны саломіну выкылаў сабе вока.* Слаўнае Мсцісл. *Жытнія саломіна ляжыць ны дарозе.* Шчыпаў Расням.

САЛО́МІНКА, -і, *ж.* Памянш. ад саломіна. *Доктыр даў нейкыга лікарства і кызаў піць праз саломінку, бо, кажа, зубы папорцюцца.* Камароўка Крыч.

САЛО́МКА, -і, *ж.* Памянш. ад салома. *На ўзгорку хуць саломка і нівялікыя расьцець, але жыційка ўмалотныя бываіць.* Аляксандраўка Краснап. *Кладзіся, дзетка, спаць, я табе сьвежыя саломкі пысьцялю.* Зарубец Крыч.

САЛХВЕ́ТКА, -і, *ж.* Абрус, сурвэтка. *Я сабе зьвязала дзьве салхветкі на стол, адну зялёную, а другую ў паскі.* Пірагова Мсцісл.

САЛЫ́ПНУЦЬ, *дзеясл.* Салапнуць, лізнуць языком. *Сыбака салыпнула мяса са стала.* Палуж Краснап.

САЛЬНІ́К, -а, *м.* 1. Парсюк, якога кормяць на сала. *Мой сальнік здох — тыкая паціра!* Хвёдараўка Краснап. 2. Сыты, тлусты. *Ну, брат, ты — сальнік, карак, як у кыбына.* Там жа.

САЛЯ́НКА, -і, *ж.* Сальніца, пасудзіна для солі. *Вазьмі солі ў салянкі, ды прысалі трохі, ато недасыль.* Пацкава Мсцісл.

САМ, *займ.* Сам. *Мой нядбайла нічога сам ня зьдзелыіць, нічога ні скажыць пы-харошыму.* Касцюковічы. *Ты ня сьпі — глядзі дарогі, ато конь ніцямлівый, сам ні знойдзіць, саб'ецца.* Арцёмаўка Міласл.

САМАВА́Р, -а, *м.* Самавар. *Ні хапіць вады ў самавары.* Хоцімск. *Адтушы вугольля для самавара.* Касцюковічы. *З печы атсыпалі большый чугун гарачых вугольляў і аттушылі іх для самавара.* Сохана Мсцісл.

САМАВО́ЛЕЦ, -льца, *м.* Непаслухмяны, свавольнік. *Самаволец! Што ўздумаець, то й дзелаець, нікога й слухаць не хочыць.* Дубеец Касцюк.

САМАГО́НКА, -і, *ж.* Самагонка. *Пынавучыліся гнаць самагонку, дык хоць і нільзя, а ўсё роўна гонюць.* Юшкавічы Расням.

САМАГУ́БСТВА, -а, *н.* Самагубства. *Мне ўсё ні верілысь, штоб ён ряшыўсь на самагубства, а ён учора ўзяў ды павесіўся.* Канічы Касцюк.

САМАКРУ́ТКА, -і, *ж.* Калаўрот, самапрадка. *На самакруткі прасьць хутчэй, як на верацяно.* Крычаўшчына.

САМАПРА́ДКА, -і, *ж.* Калаўрот. *Самапрадка круціцца хутка.* Залесавічы Крыч. *Басы нада новыя ў самапрядку.* Хвёдараўка Краснап.

САМАТКА́НКА, -і, *ж.* Спадніца з саматканага сукна. *Пашыла сабе саматканку, ато насіць ужо нечыга — абнасілася саўсім.* Барысавічы Клім. *У етай жанчыны харошыя саматканка ў паскі.* Вінаградаў Міласл.

САМАТУ́ЖНІК, -а, *м.* Саматужнік. *Сяньні будзіць сход саматужнікаў у прэфсаюзі.* Мсціслаў.

САМАТУ́ЖНЫЙ, *прым.* Саматужны. *Ета ружжо зьдзелына саматужным спосыбам — каваль яго дзелыў.* Сапрынавічы Мсцісл.

САМДЗЕ́ЛЕ, *прысл.* Сапраўды. *Ты, Сапрон, самдзеле дурынь!* Палуж Краснап.

САМІ́Т, -у, *м.* Аксаміт. *Саміту ны плацьця купіла.* Палуж Краснап.

САМІ́ТЫВЫЙ, *прым.* Аксамітавы. *Пашыла сібе самітавый кыбат.* Палуж Краснап.

САМЛЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Самлець, страціць прытомнасць. *Яна самлела ад страху.* Хвёдараўка Краснап.

СА́МЫЙ, *займ.* Самы. *Самыю зену скалоў.* Турэйск Краснап. *Во, во, самы той — дывай яго сюды.* Новы Дзедзін Міласл.

СА́НІ, -ей, *мн. л.* Сані. *Мае сані разлымаліся, і ў лес німа чым ехаць.* Башары Расням. *Сані рыскаціліс на зывароці, і ўсі павысыпаліс.* Старае Сяло Мсцісл.

СА́НКІ, санак, *мн. л.* 1. Санкі. *Санкі зімою ў ходу.* Шарэйкі Касцюк. *Хлапцы кыўзаліся на лёдзі на санках і каньках.* Мазалава Мсцісл. 2. Сківіцы. *Во зяўнуў, аж чуць санкі ня вывіхнуў.* Арцёмаўка Міласл. *Як дам у морду, дык і санкі зьвярну.* Гібалы Касцюк. *Ні зівай так, ато санкі на бок вывірніш.* Парадзіна Мсцісл.

САП, -а, *м.* Сап. Хвароба жывёлы, пераважна конская. *Скаціна сапым балеіць.* Башары Расням.

САПЕ́ЛКА, -і, *ж.* Жалейка, дудка. *Самусь дужа хоріша ны сапелкі граіць.* Іванаўка Хоцім.

САПЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Сапці. *Дзядзька сапець носым, як кывальскі мех.* Шумячы.

САПНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Паспаць. *Сапнуў здорыва — ат сьніданкі ды абеду.* Палуж Краснап.

САПО́ЖНІК, -а, *м.* Шавец. *У нас ны кватэры зы сьцяною жыве сапожнік, аддай яму, дык ён табе за вечыр і пачыніць твае бацінкі.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Ягор Шыбай у нас у дзярэўні сапожнік.* Пірагова Мсцісл.

САПРАЦІ́ВАК, -а, *м.* Месца супраць варот у сянніцы. *Сапраціўак таксама накладзен сенам.* Пухнава Мсцісл.

САПРО́Н, -а, *м.* Уласнае імя Сафрон. *Сапрон ныняўся вазцом у Касьцюковічы.* Палуж Краснап.

САПСАВА́ЦЬ, *дзеясл.* Сапсаваць, прывесці ў нягодны стан. *Сапсавала гразь дарогу.* Іванаўка Хоцім.

САПСУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Сапсавацца. *Зьеш тоя масла, ато яно сапсуецца.* Бялішчына Мсцісл.

САПУ́Н, -а, *м.* Сапун. *Што ты сапеш, як у мех, сапун нейкій!* Пірагова Мсцісл.

САПХНУЦЬ, *дзеясл.* Сапхнуць, спіхнуць, скінуць. *Сапхнулі гэта цара з яго пасаду.* Ушакі Чэрык.

САПЦІ́, *дзеясл.* Сапці. *Замест гамонкі яна пачыла сапці, як у трубу.* Пірагова Мсцісл. *Сапець носым, аж агонь у лампі дрыжыць.* Маластоўка Краснап.

САРАВЕ́ЖКА, -і, *ж. бат.* Сыраежка. *Калі варыш саравежкі, нада аблуплівыць кожычку.* Пірагова Мсцісл.

САРАКАВУ́ШКІ, -шак, *мн. л.* Лапці. *Ён купіў дужа добрыя саракавушкі, зараз толькі аборы павіць, дык і абуваць можна.* Тур'я Чэрык.

САРАКВАШ, -у, *м.* [Сыракваша], кіслае малако. *Мо' табе троху саракваиіу ўліць?* Шчыпаў Расиян.

САРАКВАША, -ы, *ж.* [Сыракваша], кіслае малако. *Насабіралася многа саракваиіы, нада яе аттапіць на тварог.* Зоры Чэрык. *Сьмітану кот зьлізаў, адна сараквата асталась, ды й тую троху разьліў.* Іванаўка Хоцім.

САРАХВАН, -а, *м.* Жаночае адзенне. *Надзень сёньня сарахван.* Асавец Крыч. *Мне пашылі сіццывы сарахван.* Хоцімск.

САРВІЛА, -ы, *ж.* Покруцень, прайдзісвет. *Еткыга сарвілы й сьвет ні сьвяціў.* Хвёдараўка Краснап.

САРВІЛАЎШЧЫНА, -ы, *ж.* Крадзеж, раскраданне. *У Трубільні адна ў сьвеці сарвілаўшчына: ні пасідзяць ні гуркі, ні гарох — усё рыскрадуць.* Хвёдараўка Краснап.

САРОМІЦЦА, дзеясл. Саромецца. *Дзяўчына саромілыся, дык і есьць ні стала.* Віградаў Міласл.

САРОМЛІВА, *прысл.* Сарамліва. *Саромліва стаяла, апусьціўшы вочы, перад чалавекам.* Сохана Мсціcл.

САРОМЛІВЫЙ, *прым.* Сарамлівы. *Міхась такей саромліві, як дзяўчына, пры чужых людзях ён і вочы ні падыміць.* Навашоўкі Расиян.

САРОМЛІВЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Сарамлівасць. *Стала дзяўчына пірад ім ды стаіць, апусьціўшы вочы, і ад саромлівысьці ня можыць і слова скызаць.* Сохана Мсціcл.

САРОМЫЦЦА, *дзеясл.* Сароміцца. *Ні саромыйся, а еж сабе, еж усё, што ёсьць.* Палуж Краснап.

САРОЧКА, -і, *ж.* 1. Сарочка, кашуля. *Мыя сарочка чыста ўся падралыся і надзіваць ужо нечыга.* Юркаўка Крыч. *Мама пашыла мне новую сарочку.* Касцюшкавічы Крыч. *Каб цябе сарочка ня трогала, як я цябе ня трогаю.* Новае Сяло Мсціcл. *Што ета за жызьня, дажы сарочкі, як у людзей німа, а ўсё пыдраныя, старыя мне даеш.* Машавая Бялынкав. 2. Падуза. *Узьдзень каню сарочку.* Краснаполле.

САРПАНУЦЬ, *дзеясл.* Разануць, ударыць нажом. *Злодзей еты, як сарпануў нажом у бок, дык той і ськіпеў ны нажы.* Палуж Краснап.

САРПНУЦЬ, *дзеясл.* Фыркнуць. *Конь сарпнуў і пабег у поля.* Гарманава Мсціcл.

САРПЫЦЬ, *дзеясл.* Фыркаць. *Коні, як пачулі вуйка, дык пычалі сарпыць.* Куркаўшчына Мсціcл. *Конь пычаў сарпыць, верна, пачуў вуйка.* Слаўнае Мсціcл.

САСІЛІЦЬ, *дзеясл.* Перамагчы, падужаць. *Яўмен сасіліў Мікіту.* Палуж Краснап.

САСЛУЖНІК, -а, *м.* Таварыш па службе [саслужывец]. *Ён мой саслужнік: разам у арміі былі.* Пірагова Мсціcл.

САСМОРГЫНЫЙ, *прым.* Абшморганы. *Сасморгыный з смарды і вішняў ліст пыклалі ў гуркі.* Парадзіна Мсціcл.

САСНА, -ы, *ж.* Сасна, хвойка. *Сасна пычыла валіцца, як яе падсеклі, а ён стаіць і ні ўцікаіць — чуць ні зыдавіла.* Старае Сяло Мсціcл. *У лесе ляжыць вялікі выварат сасны.* Канічы Касцюк.

САСНОВЫЙ, *прым.* Сасновы [хвойны, хваёвы]. *Сасновыя аглыбля кепскыя, нямоцныя.* Пухнава Мсціcл. *Казлы растуць больш у сасновым лесе.* Пірагова Мсціcл.

САСНУ, *прысл.* Спрасонку. *Чылавек сасну схапіўся і ня ведыя, хто яго завець.* Палуж Краснап.

САСОНЬНІК, -а, *м.* Сасоннік [хвойнік]. *У сасоньніку ўжо сыравежкі пыявіліcь.* Бяседавічы Хоцім.

САССАЦЬ, *дзеясл.* Высcаць, высмактаць. *Рандатыр усю кроў сассаў з мужукоў.* Лютня Краснап.

САТЛЕЛЫЙ, *прым.* Згнілы, спарахнелы. *Пень етый ужу сатлелый: зьверху, як цэлый, а ў сярэдні — пырíхня.* Іванаўка Хоцім.

САТЛЕЦЬ, *дзеясл.* Сатлець, згніць. *Сатлеў на нет мой сырыхван ат сырысьці, а можа моль паела.* Слаўнае Мсціcл. *Пень чыста сатлеў, адна пырыхня 'цталысь.* Хвёдараўка Краснап.

САЎКА, -і, *м.* 1. Уласнае імя Сава. *Саўка ды разу зьеў міску крупені.* Палуж Краснап. 2. *ж. заал.* Сойка, сіваваронка. *Саўка зь лесу прыляцела ў наш сад.* Бродкі Крыч.

САЎНЕЧНЫЙ, *прым.* Сонечны, сонцавы. *З-зы хмары відна саўнечныя аткоскі.* Хвёдараўка Краснап.

САЎРЭЦЬ, *дзеясл.* Спячыся на сонцы, абліцца потам. *Саўрэў чыста на сонцы, во пячэць!* Брылёўка Краснап.

САЎСІМ, *прысл.* Зусім. *Маё здароўе стала саўсім ужо плахоя.* Машавая Бялынкав. *Я сяньні саўсім яшчэ нічога ня еў.* Арцёмаўка Міласл. *Мне ета саўсім ні пыдыбаецца.* Горы Краснап. *Пакалелі мы саўсім, пакуль выцягнулі бульбу з пограба.* Пірагова Мсціcл.

САЎСТРІКАЦЬ, *дзеясл.* Сустракаць. *Пы дарозі Міхалка саўстрікая свайго брата.* Палуж Краснап.

САЎСЮДЫХ, *прысл.* Адусюль. *Людзей сыбрялысь саўсюдых: і з Магілёва, і з Оршы, і з Гоміля.* Клімавічы.

САЎХОЗ, -а, *м.* Саўгас. *Раней тут быў бальшый панскій маёнтык, а цяпер саўхоз.* Сохана Мсціcл. *Ета цёлычка ат пародзістый каровы, што ў саўхозі.* Арцёмаўка Міласл.

САЎХОСКІЙ, *прым.* Саўгасны. *Тут была панскыя лажніца, а цяпер саўхоскыя ячэйка.* Лютня Краснап.

САЎЧОК, -чка, *м.* Штуршок. *Як даў яму саўчка пад бок, дык і пірыкуліўсь.* Хвёдараўка Краснап.

САХА, -і, *ж.* 1. Саха, земляробчая прылада. *Пулумаліся вобжы ў сасе.* Брылёўка Краснап. 2. Слуп, падпорка. *Саха ў гумне падгніла.* Красоўка Калінінщчына.

САХВЕЯ, -і, *ж.* Уласнае імя Соф'я, Зося. *У дзяреўні прызвалі Сахвея.* Слаўнае Мсціcл.

САХОН, -а, *м.* Уласнае імя Сафон. *Сахон — хыдзяка, за свой век пайсьвету абышоў.* Кокатава Мсціcл.

САХЫР, -у, *м.* Цукар. *Пыгляздзі, ці ёсьць у нас сахыр напіцца чаю.* Канічы Касцюк. *Атваж мне тры хунты сахыру.* Мсціслаў.

САЦІНАВЫЙ, *прым.* Сацінавы. *Я да свайго андрыка прышыла сацінавы кабат.* Парадзіна Мсціcл.

САЧО́К, -чка, *м.* Памянш. ад сак. *Мне тата пашыў сачок з сукна.* Сідараўка Калініншчына.

САЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Сачыць. *Ат яго не ўберажэсься: за ім трэба сачыць дый сачыць.* Гібалы Касцюк. *Хлопчык сачыў курыцу, айдзе іна нясецца.* Краснаручча Раснян. *Сачы тут за ім, каб ён чаго ні нырабіў.* Андраны Раснян.

САЧЭ́ЎКА, -і, *ж. бат.* Сачыўка. *Цяперіцька редка ў нас сеюць сачэўку, а раньшы сеілі.* Палуж Краснап.

САШЧАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Сашчапіць. *Наброў ахапку саломы вялікую — ледзьві рукі сашчапіў.* Старае Сяло Мсцісл.

САЮ́ЗКІ, -зак, *мн. л.* Абшыўкі перадоў у ботах. *Трэба саюзкі ў боты зьдзелыць новыя, ато дзіркі падзелыліс у пірідах.* Маластоўка Краснап.

САЯ́Н, -а, *м.* Суконная спадніца з каснікамі, андарак. *Мой саян яшчэ пеўна вынасіць дзьве зімы.* Белы Камень Бялынкав. *Ныбрала сукна, купіла галёнаў і пашыла сабе саян, а андрак ня носіць.* Юркаўка Крыч. *Колькі каштуе твой чырвоны саян?* Віхраны Мсцісл. *Я дыстала саян з кубла і пылажыла на лаўкі, а сьвіня сьцягнула і пырвала.* Шумячы.

СВАВО́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Сваволіць, праяўляць сваю волю, дуроснічаць. *Дзеці, ні свавольця тут, ато павыганю з хаты — калі хочаце, дык сядзеце ціха.* Кокатава Мсцісл. *Ні сваволь, Агата, ато я табе.* Залесавічы Крыч.

СВАВО́ЛЬНІК, -а, *м.* Свавольнік, непаслухмяны. *Міхась твой дык свавольнік вялікі — усё сваволіць, а не, каб пасядзець ціха.* Бель Мсцісл.

СВАВО́ЛЬНІЦА, -ы, *ж.* Свавольніца, непаслухмяная. *Свавольніца ты, Марыся, лядзі, каб табе не папала, разышлася ты надта.* Асавец Крыч.

СВАВО́ЛЬНЫЙ, *прым.* Свавольны, непаслухмяны. *Ой, якей свавольны хлопіц, што крый бог.* Андраны Раснян.

СВАВО́ЛЬСТВА, -а, *н.* Свавольніцтва, напаслушэнства. *Свавольства ў дзяцей вялікыя цяпер: німа, каб паслухаць старэйшых, а ўсё, як самі знаюць.* Дубровіцы Клім.

СВАВО́ЛЯ, -і, *ж.* Свавольніцтва, непаслушэнства. *А ўсё сваволя: не паслухаў бацькі-маткі, вось і маеш зараз, зарабіў.* Бродкі Крыч.

СВАДЗЁБНЫЙ, *прым.* Вясельны. *Уперыдзі ўсіх ехаў мыладый з мыладою, а за імі ўсі свадзебныя госьці.* Сохана Мсцісл.

СВА́ДЗЬБА, -ы, *ж.* Вяселле. *Мы сяньні гулялі свадзьбу: Зосю Самусёвых замуж выдывалі.* Роськаў Калініншчына. *На другей жа дзень пысьля свадзьбы пычаліся ўпікань- ні, сварка.* Пірагова Мсцісл.

СВАЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Збіцца ў лямец. *Нада воўну сыдраць, ато калі яшчэ столькі пуваляіцца на печы, дык сваліцца ў ляміц, і тады яе ні рызьдзярэш.* Бяседавічы Хоцім.

СВАРІ́ЦЦА, *дзеясл.* Сварыцца. *Яны цяпер хырашо жывуць: ладзюць, пірісталі сваріцца, як раньшы.* Арцёмаўка Міласл. *Ён хлопіц харошый, уступлівый, ніколі ні с кім ні сваріцца; луччы сваё ўступіць, а сваріцца ні будзіць.* Бяседавічы Хоцім.

СВА́РКА, -і, *ж.* Сварка, лаянка. *У суседа — штодзень сварка: верна, хочуць дзяліцца.* Гібалы Касцюк. *Сваркі ні було помеж імі, а толькі бабы сварыліс міжсобку.* Палуж Краснап. *Сваркаю нічога добрыга ні даб'ешся, акрымя пастыльства.* Канічы Касцюк.

СВАРЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Сварыцца. *Сварыліся зы мяжу, ажно й абкосык пакінулі.* Віхраны Мсцісл. *А, у іх вечны ніпарадык: штодзень сваруцца.* Добрае Мсцісл. *На вуліцы дзьве бабы сваруцца.* Людагошч Мсцісл.

СВАРЭ́КА, -і, *ж.* Сварлівы чалавек. *Зь етый сварэкый ні ўладзіш.* Хвёдараўка Краснап.

СВАТ, -а, *м.* Сват. *Етыю песьню пяюць з адменамі, кылі свату, дык пры свата кажуць, а кылі свацьці, дык і пры свацьцю.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

СВА́ТЫ, -ыў, *мн. л.* Сваты, пасланыя да дзеўкі, каб засватаць яе за хлапца. *Сваты прыйшлі вічаром.* Палуж Краснап. *Мар'я маленькая, няпрыгожая, вот і сваты ня едуць.* Пірагова Мсцісл.

СВА́ЦЬЦЯ, -і, *ж.* Свацця. *Свацьця, вып'ем па чарцы з табою.* Андраны Раснян. *А ў бабре, свацьця, а ў бабре, ‖ А нясі гарелкі ў вядре!* З нар. песні.

СВЕ́РДЗІЛ, -рдла, *м.* Свердзел. *Свердзел тупый, ані ня круціць.* Забычанне Касцюк.

СВІДЗЕ́ЦІЛЬ, -я, *м.* Сведка. *Ён хацеў у свідзелілў выпытаць праўду, дык усякімі манерымі к ім падыходзіў.* Арцёмаўка Міласл.

СВІНА́РНІК, -а, *м.* Свінушнік, хлеў для свіней. *Зачыні свіней у свінарнік.* Бяседавічы Хоцім.

СВІНЬНЯ́, -і, *ж.* Свіння. *Наша свіньня нешта зыкульгала, штоб ня здохла часамі.* Бяседавічы Хоцім.

СВІРЕ́ПКА, -і, *ж. бат.* Свірэпка. *У вайсу дужа многа свірепкі, пряма жоўт авёс ат яе цьвятоў.* Арцёмаўка Міласл.

СВІ́ТКА, -і, *ж.* Світка, верхняя вопратка. *Мыя світка ўся ізнасілась і надзівваць нечыга.* Рэкта Калініншчына. *Нат світкі люцкае німа, штоб адзецца пыцяплей.* Сабалёўка Калініншчына.

СВОЙ, *займ.* Свой. *У яго ня свой дом у горыдзі, а хвацера: плоціць пять рублёў у месіц.* Арцёмаўка Міласл. *Свыя хатка — родна матка.* Ушакі Чэрык. *Разінь ты сваё мяла ды скажы — чаго маўчыш?* Высокі Бор Краснап.

СВЫЯВО́ЛКА, -і, *ж.* Свавольніца, што выказвае сваю волю. *Жонка мыя свыяволка: што захочыць, дык ужо кажы ні кажы, а зьдзелыіць.* Маластоўка Краснап.

СВЫЯ́КІНЯ, -і, *ж.* Сваячка. *Мыя свыякіня ў етым гаду пышла замуж.* Канічы Касцюк.

СЕ́ДЗЕНЬ, -я, *м. бат.* Фасоля нізкая. *Сёліта я пысадзіла фасолі: і тычковую і седзень.* Іванаўка Хоцім.

СЕДЗІ́БА, -ы, *ж.* Лепшая зямля, што адводзяць пад ячмень і каноплі. *Яшчэ дужа многа работы — седзібы не пыпахыны.* Васілеўка Хоцім.

**СЕ́ДЗІНЬ**, -я, *м.* 1. Чалавек, што не можа хадзіць, а толькі сядзіць. *Ён жа ў нас седзінь — ня можа хадзіць.* Хвёдараўка Краснап. 2. Шырокая нізкая бутэлька на газу. *Налі красіну ў седзінь.* Хвёдараўка Краснап.

**СЕ́ДЫЦЦА**, *дзеясл.* Хвалявацца, нервавацца. *Ня седыйся дужа так, зыспакойся!* Хвёдараўка Краснап.

**СЕ́ЖА**, -ы, *ж.* Загародка на рацэ з сеткі. *Мы сёньня сежай нылавілі многа рыбы.* Новыя Капачы Мсцісл. *Ны ряке нехта пыставіў сежы на рыбу.* Барысавічы Клім.

**СЕ́ЙБІТ**, -а, *ж.* Сейбіт [сявец]. *Сейбіт рана вышыў сеіць: яшчэ зімля ні прасохла.* Палуж Краснап.

**СЕ́ІЦЬ**, *дзеясл.* Сеяць. *На етым лабыру нічога ня стоіць сеіць — усёдно нічога ня вырасьцець.* Краснаручча Расиян. *Блыха хату топіць, ‖ Сьвіньня дзяжу месіць, ‖ Аўца муку сеіць.* З нар. песні, М. Г. 82.

**СЕКАНУ́ЦЬ**, *дзеясл.* Секануць. *Чылавек секанўў бярёзу раз-два ды й кінуў.* Палуж Краснап.

**СЕ́ЛА-СЕ́ЛА**, *выкл.* Заклік да курыцы, каб яна села. *Села-села, нырычка, села!* Хвёдараўка Краснап.

**СЕ́ЛЬСКІЙ**, *прым.* Сельскі, вясковы. *Сельскій выбарны, упаўнываўжыный.* Канахоўка Клім. *Справіла адзежу меськыю, ‖ Зыстылася мужыку сельскыму.* З нар. песні, М. Г. 29.

**СЕЛЯДЗЕ́Ц**, -дца, *м.* Селядзец. *Селядцы сталі вельмі дорыгі.* Шумячы.

**СЕЛЯНІ́Н**, -а, *м.* Селянін. *Селянін абчышчаў скоблім жэрдзя.* Бакунавічы Чэрык. *У селяніна заўсёды вожкі вяровачныя.* Пухнава Расиян.

**СЕМ**, *ліч.* Сем. *Сем коп жыта ныжалі на етым полі.* Шчулканы Расиян.

**СЕ́МЕНЬНІК**, -а, *м.* Пляменны, выгадаваны для разводу. *Я гадую харошыга жырібца семеньніка.* Пірагова Мсцісл.

**СЕ́МКІ**, семык, *мн. л.* Семячкі. *Хлопцы зь дзеўкымі семкі лузгаюць.* Маластоўка Краснап.

**СЕ́МЯ**, -я, *н.* Семя, насенне. *Нымылацілі — ні на семя, ні на емя.* Парадзіна Мсцісл.

**СЕ́МЯНКА**, -і, *ж.* [Насенка], насенная бульба. *Ета бульба ні для ежы — ета семянка.* Хвёдараўка Краснап.

**СЕ́МЯЧКІ**, -чак, *мн. л.* [Семячкі], зярняты сланечніка. *Насыпала кішэнь семячак і пышла на вічарынку.* Гусарка Клім.

**СЕ́НА**, -а, *н.* Сена. *Сена ўжо высыхла, нада грэсць.* Тульдава Расиян. *Вазьмі рэзьвіны ды напіхай конім сена.* Тур'я Чэрык. *Во нідбальства: сена ні звазілі, копы гніюць пыд дажджом, а яны хуць бы што.* Арцёмаўка Міласл.

**СЕНАЖА́ЦЬ**, -і, *ж.* Сенажаць. *За прыгоным пану ўсё рабілі: касілі сенажаць, жалі, палолі, пыхалі, гной вазілі і ўсякую іншую работу.* Жалезніца Краснап.

**СЕНАЖА́ЦЬЦЯ**, -я, *н.* Сенакос. *Глёк з вадою ўзялі на сенажацьця, а нам нада ў збанок ныбраць вады.* Касцюковічы.

**СЕ́НЦЫ**, -аў, *мн. л.* Сені [сенцы]. *У іх дзьве хаты і сенцы між ду імі. У сенцы увыйдзеш, дык дзьверь пряма з сянец на ворык, ныправа дзьверь у адну хату, а налева ў другую.* Арцёмаўка Міласл. *У сенцах прыламілась мастніца.* Гусарка Клім.

**СЕ́ЛЕТА**, сёліта, *прысл.* Сёлета, у гэтым годзе. *Сёлета ў нас гароху многа — зырадзэіў.* Пірагова Мсцісл. *Сёліта пагода стаіць добрыя.* Маластоўка Краснап. *Сёліта дужа дажджлівыя лета.* Лешчынка Мсцісл. *Сёліта быў добрый урыджай.* Васілёўка Хоцім.

**СЕ́МКА**, -і, *м.* 1. Уласнае імя ад Сымон. *Наш Сёмка вырас, як махіна.* Зарубец Крыч. 2. [Сямёрка], сёмая карта ў калодзе. *Шыстакоў бі сёмкый.* Хвёдараўка Краснап.

**СЕ́НЬНЕШНІЙ**, *прым.* Сённяшні, цяперашні. *Сёньнешні заробак — выпадковы.* Касцюковічы.

**СЕ́НЬНІ**, *прысл.* Сёння, сягоння, гэтым днём. *Сёньні ны дваре такі воблій, што нельга йсьці па вуліцы — надта сьлізка і мокра.* Прусіна Касцюк.

**СЕ́НЬНІШНІ**, *прым.* Сягонняшні, сённяшні. *Сёньнішнія сходка была ныстыяшчыя гымарня: усі крічалі, а да толку ні дайшлі.* Слаўнае Мсцісл.

**СЕ́НЬНЯ**, *прысл.* Сёння, сягоння. *Пазыч ты, таічка, мне сёньня дзешкі.* Буліна Клім. *Я сёньня дужа рана пыдтапіла печку, дык груца ўжо гатовая.* Бабынавічы Мсцісл. *Сёньня мокрае надвор'я.* Паходавічы Чэрык.

**СЕРАДА́** -ы, *ж.* Серада, сярэдні дзень у тыдні. *Учора быў пынядзелак, а заўтра будзіць серада.* Залесавічы Крыч. *Да пераплаўнай серады купацца няможна.* Мсціслаў.

**СЕРАДАПО́СЬЦЕ**, -я, *н.* Сярэдзіна вялікага посту, серада на чацвёртым тыдні поста. *Сёньня ўжо серадапосьця, ды вялікадні зысталіся тры нядзелі і тры дні.* Людагошч Мсцісл.

**СЕРА́К**, -а, *м.* Шарак, пінжак з шэрага даматканага сукна. *Нада пашыць сабе серак длі работы.* Галоўчыцы Калінішчына.

**СЕ́РАНЬКІ**, *прым.* Шэранькі. *Мыхавік — серанькій грыб, расьцець у нізкіх, пакрытых мохам, местах.* Пірагова Мсцісл.

**СЕ́РБАЦЬ**, *дзеясл.* Сёрбаць, есці. *Дос табе сёрбаць голую поліўку, ад яе ўсё роўна ні ныясіся.* Лешчынка Мсцісл.

**СЕ́РІЙ**, *прым.* Шэры. *Чый ета серій кыбан ны гародзі?* Маластоўка Краснап. *Ох, і кабылу я відзіў ны ярмылкі — серія ў яблыках, рослыя.* Мсціслаў.

**СЕ́РНЫЙ**, *прым.* Серкавы. *Хацелі яго атруціць, усыпаўшы серных сьпічак у чай.* Арцёмаўка Міласл.

**СЕРП**, -а, *м.* Серп. *Вазьмі серп ды йдзі павыжні шчаўлюк, ато ён паглушыць усё.* Слаўнае Мсцісл. *Ці німа ў вас сірпа гуляшчыга на дзень пыжаць, ато я свой злымала ўчора?* Дарагая Крыч.

**СЕ́РЦА**, -а, *н.* Сэрца. *Нуда на серца нейкыя ныпала, проста месца сабе ні знайду.* Шэвялёўшчына Мсцісл. *Во тыкая муць нышла на серца, ня вытрываць проста.* Слаўнае Мсцісл.

**СЕРЦАВІ́НА**, -ы, *ж.* Сэрца, асяродак у дзераве, анатамічная сярэдзіна. *Серцавіна ў дзераві лёгка выймаіцца.* Хвёдараўка Краснап.

**СЕ́РЬГА**, -і, *ж.* Завушніца. *Што люблю я, калі ў каго серьгі ў вушах! Абізацілна сабе куплю.* Пірагова Мсцісл.

СЕРЬМЯ́ГА, -і, *ж.* Сярмяга, верхняя вопратка. *Пашыў ты мне серьмягу, што нікуды ні варта.* Тур'я Чэрык.

СЕ́СЛА, -ы, *ж.* Матня ў штанах. *Дзямід бегаіць, аж сесла трасецца.* Гібалы Қасцюк. *Пірылізаўшы праз плот, пырваў у штынах сесла.* Палуж Краснап.

СЕСЬЦЬ, *дзеясл.* Сесці. *Лаўкі зыняты, і сесьць німа дзе чылавеку.* Белы Қамень Бялынкав. *Сеў ны калёсы і ногі зьвесіў ны лавычку.* Хвёдараўка Краснап.

СЕЧ, *дзеясл.* Сячы, рубіць. *Пойдзем у лес сеч кроквы ны гумно.* Хвёдараўка Краснап.

СЕ́ЧАНЫЙ, *прым.* Сечаны. *Хляк есьць сечаныя храп'я, а нісечаныга ня хочыць.* Юшкавічы Раснян. *Ці ёсьць сечана храп'ё ля сьвіньней?* Камароўка Крыч.

СЕ́ЧКА, -і, *ж.* 1. Сечка, сякач. *Вазьмі сечку і нысячы сьвіньням храп'я поўныя карыта.* Тур'я Чэрык. *Пыдай сечку, нада насеч сьвіньням лісьця.* Бяседавічы Хоцім. 2. Вострая на язык. *Ай, якая твыя жонка сечка!* Хвёдараўка Краснап.

СЕ́ЧЫНКА, -і, *ж.* Дробна насечаная трава ці ўвесь капусны ліст для свіней. *Дай сьвіньні сечынкі, ато ўвесь парог згрызець.* Хвёдараўка Краснап.

СІБІ́РКА, -і, *ж.* Сіберны, халодны вецер. *Сяньні нада цяплей апрануцца: сібірка тыкая, што закрый бог.* Пірагова Мсцісл.

СІБІ́РЬНЫЙ, *прым.* Сіберны, злы, жорсткі. *Сібірьный мароз з ветрым, проста цярпець нільга.* Дарагая Крыч.

СІВА́ЛКА, -і, *ж.* Сявалка, кошык або лубка, з якой сеюць. *Паехыў сеіць, а сівалку забыўсь.* Палуж Краснап. *Мне асталысь там поўляхі нідасеінай, так сівалкі са трі нада. Нада другую сівалку купіць, а пакуль што ў етый лыкым дно падшыць, ато атырвалысь.* Арцёмаўка Мілаcл.

СІВЕ́Ц, -а, *м. бат.* Сівец, трава. *Сівец нада зьніштыжаць з жыта, ато тады жыта чорнае.* Пірагова Мсцісл. *У жыце завёўся сівец.* Лешчынка Мсцісл.

СІВІГРА́К, -а, *м. заал.* Сіваваронка, сіваграк. *Забіў з ружжа сівагракa.* Хвёдараўка Краснап.

СІВІ́ЗНА, -ы, *ж.* Сівізна. *У такога мыладога хлопца пыявілыся ны гылаве сівізна.* Слаўнае Мсцісл.

СІВІ́РЬНЫЙ, *прым.* Сіберны, злы, калючы. *А веціръ такій сівірьный, што пячэць, як агнём.* Клясін Краснап.

СІ́ВЫЙ, *прым.* Сівы. *Сядзеў на печы сівый дзед і пыкашліваў.* Слаўнае Мсцісл.

СІГ, -а, *м.* Крок. *У цябе сіг вялікій, зы табою ні пасьпеіш.* Белы Қамень Бялынкав. *Зы тваім сігым і конь ні ўправіцца беч: ступіш дзесіць разоў, ну вірста далоў.* Слаўнае Мсцісл.

СІГА́ЦЬ, *дзеясл.* Сігаць, крочыць. *Ты хутка сігаіш, я зы табою ні магу пасьпець.* Іванаўка Хоцім. *Янка сігаець шпаркім крокам.* Қасцюковічы. *Ён стаў так сігаць, што я за ім ні пысьпіваў: я ўжу трюшком бег, аж зымарііўся.* Арцёмаўка Мілаcл.

СІГЕ́НЬ, -гня, *м.* Сіг, крок. *Пять сігнёў зьдзелыў толькі і дыгнаў.* Хвёдараўка Краснап.

СІДА́К, -а, *м.* Пасажыр. *Сідак мне знаходзіцца пы дарозі — дывязу за пяць рублёў да Хоцімска.* Горня Хоцім. *Былагол узяў пяць сідакоў і паехыў.* Хоцімск.

СІДРА́ВА, *прысл.* Халаднавата з сырым ветрам. *Надзень кыхтан, бо ў ваднэй рубашкі будзіць сідрава.* Залачова Мсцісл.

СІҚА́ЛА, -а, *н.* Красала. *Ён хацеў зыкуріць, насыпуў пінку, дыстаў губку, кремінь, а сікала шукаў, шукаў — ні нашоў, верна, пацірай.* Арцёмаўка Мілаcл.

СІКАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Секануць, рубануць. *Раз сікануў — дык кроў пышла.* Меншая Багацькаўка Мсцісл. *Як сікануў пугай, дык аж скуру прасек.* Мацутаўка Раснян.

СІКРЕ́Т, -а, *м.* Сакрэт. *Пчолы ў яго вядуцца — сікрет нейкій ён знаіць.* Палуж Краснап.

СІКРІТА́РЬ, -я, *м.* Сакратар. *Прышла баба ў сельсавет і пытае, дзе тут сікрітарь будзець.* Міцькаўшчына Мсцісл.

СІ́ЛА, -ы, *ж.* Сіла. *Сіла ў яго была німамерныя: пяць пудоў, бывала, возьміць зь зямлі і сам на плечы закінець.* Імірка Раснян.

СІЛА́К, -а, *м.* Дужы чалавек. *Зь ім, брат, ні чыпайся, ён — сілак і дасьць табе дыху.* Высокі Бор Краснап. *Во ета сілак: адзін дваіх боріць.* Слаўнае Мсцісл.

СІЛАМО́ЦЬЦЮ, *прысл.* Гвалтам, прымусам. *Мар'я ні хацела замуж іці — сіламоцьцю 'ддалі.* Қасцюковічы.

СІ́ЛАЮ, *прысл.* Гвалтам. *Сілаю прымусіш даць, а ўзяць сілаю ня прымусіш.* Сохана Мсцісл.

СІЛІВО́Н, -а, *м.* Уласнае імя Селівон. *Сілівон у сылдаты зыгадзіўсь.* Палуж Краснап.

СІЛКО́М, *прысл.* Сілком, гвалтам, прымусам. *Іна ні хацела зы яго іці, дык сілком аддалі.* Арцёмаўка Мілаcл.

СІ́ЛНА, *прысл.* Дужа, вельмі [моцна]. *Сілна баліць у яго гылыва.* Хоцімск. *Людзі спыймалі злодзія і сілна яго атпылысывалі.* Будагошч Мсцісл.

СІ́ЛНЫЙ, *прым.* Дужы. *Сілны чылавек быў, пы пяць пудоў падымаў, а сьмерць і яго паборіла.* Маляцічы Крыч.

СІЛО́, -а, *н.* Сіло. *Пупалыся птушка ў сіло.* Палуж Краснап.

СІЛЬЛЁ, -я, *н.* Сіло. *Янка пыставіў сільлё на кавак, а пупаўсь галубец.* Дуброўна.

СІЛЯЗЕ́НЬ, -зьня, *м.* Селязень, качур. *Сілязень троху большы за вутку, і ў яго хвост калечкым угору зывырачывыіцца; сілязень усягды ўперыдзі вутык ідзець.* Арцёмаўка Мілаcл.

СІЛЯ́НКА, -і, *ж.* Сялянка. *Я ж ні гырадзкая. Я — простыя сілянка і пу-вашыму гываріць ня ўмею.* Глупікі Крыч.

СІЛЯТО́ЧЫК, -а, *м.* Сяголетак. *Кабыла і сіляточык стыяць у хлеві.* Хвёдараўка Краснап.

СІЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Чэрпаць, браць. *Сіляй ваду вядром.* Хвёдараўка Краснап. *Сіляйце, дзеці, ложкымі пыстылялку, бо кружык німа.* Роськаў Қалінішчына.

СІМЕ́НЬНІК, -а, *м.* Племяннік [вырашчаны на развод]. *Раньшы сіменьнікі былі толькі ў ікономіях, у паноў, і нада было прасіць пана, штоб пусьціў быка ды каро-*

*вы або вогіря ды кабылы.* Маластоўка Краснап.

СІНАЖАЦЬ, -і, *ж.* Сенажаць. *Ні ўкланяйся гэстаму гаду: усі роўна ні дасьць сінажаці.* Ушакі Чэрык. *Сінажаць пыра касіць ужо, ато пірістаіць.* Негін Касцюк.

СІНАКОС, -у, *м.* Сенакос, пара, калі косяць сена. *Скора ўжу сінакос пычанецца, мужчыны будуць косымі зыняты, некылі бýдзіць у горыд зьездзіць.* Арцёмаўка Міласл.

СІНАКОСНЫЙ, *прым.* Сенажатны. *Пагода ладныя, нада сена касіць — пыра самыя сінакосныя.* Хвёдараўка Краснап.

СІНЕЛЬНІК, -а, *м.* Чалавек, што фарбуе, фарбар. *Атдаў бы ты сінельніку сваe штаны пысініць, ато рыжыя, як сыбака.* Ушакі Чэрык.

СІНЕЛЬНЯ, -і, *ж.* Фарбоўня. *Зывязём ніткі ў сінельню, а потым ужо ткаць будзім, як пасінім.* Парадзіна Мсцісл.

СІНЕЦЬ, *дзеясл.* Сінець. *Скажы, пычаму здаля лес сінеіць? Ён жа зялёный, а ні сіній.* Маластоўка Краснап.

СІНІЙ, *прым.* Сіні. *У вожкі нада ласкут якей увіць красный ці сіній: для меткі, штоб ніхто ні ўкраў.* Арцёмаўка Міласл.

СІНІЙ КАМІНЬ. Купарвас. *Піряд пасевым пшаніцу нада прамыць у вадзе з сінім камінім тады ні будзіць гылаўні.* Казельская Буда Краснап.

СІНІТАР, -а, *м.* Санітар. *Янка служыць сінітарым пры псіхалячэбніцы.* Міцькаўшчына Мсцісл.

СІНЮГА, -і, *ж.* Тоўстая кішка каля страўніка, кіндзюк. *Атреж сінюгу і кінь яе сыбаку.* Тур'я Чэрык.

СІНЮЖКА, -і, *ж. бат.* Сыраежка з сіняю шапкаю. *Сінюжак шмат у лесі, а іншых грібоў німа, дык сыбралі троху сінюжак.* Хвёдараўка Краснап.

СІНЮХА, -і, *ж.* Грыб-паганка. *Ні бярі етыга гріба — ён атрутный: сінюха ета, ат яго памреш.* Ушакі Чэрык.

СІНЯК, -а, *м.* Сіняк, сіняе месца на целе ад удару. *Сіняк ны наге аттаго, што я выціўся голіньню аб дошку.* Залачова Мсцісл. *Ён жа яе так зьбіў, што ўсё цела ў сіняках — жывога месца німа.* Уміркі Раснян.

СІНЯЎКА, -і, *ж. бат.* Грыб, падобны да апенак, сіні знізу, неўжывальны. *Хлопіц ныбраў сінявык заместа апеньк ды прінёс: думаў, што добрыя грібы.* Арцёмаўка Міласл.

СІПАТЫЙ, *прым.* Сіпаты, сіплы. *Чаго ты, Іван, стаў такій сіпатый! Прыстудзіўсь ці што?* Канічы Касцюк.

СІПУН, -а, *м.* Сыпун, пясок каля рэчкі. *Ля речкі сіпуну многа на луг нанесла.* Хвёдараўка Краснап.

СІПУХА, -і, *ж.* Сіпуха, жанчына, што гаворыць хрыплым голасам. *Сіпуха Хлімонывa пышла — іна гаворіць, як прястылыя.* Дзянісавічы Навазыбк.

СІРАНОК, -нка, *м.* Шаран [шарон]. *Сіранком зраньня можна ехыць, пакуль ні рыстаніць.* Палуж Краснап.

СІРАНОЎКА, -і, *ж.* Гадзюка, якая, быццам, поўзае па шарану [шароне]. *Есьць зьмія-сіраноўка, ікая поўзыя пы сірану.* Хвёдараўка Краснап.

СІРАТА, -ы, *м.* і *ж.* Сірата. *Сірата Зося, кожны дзень плача ад сваёй мачыхі.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Над сіратою — бог с калітою.* Прыказка. Камароўка Крыч. *Пымерлі мае бацькі, і зыстылась я круглай сіратою.* Ушакі Чэрык.

СІРАЦІНКА, -і, *ж.* Сіраціна. *Сірацінка ні пасьмела пупрасіць хлебца.* Ясенка Краснап.

СІРІДА, -ы, *ж.* Серада. *Учора была сіріда, значыць, сёння — чэцьвер.* Галічы Міласл.

СІРЬМЯГА, -і, *ж.* Сярмяга. *Ныпрянуў сваю сірьмягу і пашоў, куды вочы глядзяць.* Горня Хоцім.

СІРЬНЯКІ, -оў, *мн. л.* Запалкі, сернікі. *Пыкладзі сірнякі ны пяколык.* Хвёдараўка Краснап. *Пайдзеш у кыпірацыю, дык ні забудзься купіць сірнякоў, ато ўсі вышлі.* Галічы Міласл.

СІРЫТА, -ы, *м.* і *ж.* Сірата. *Жывець ён, як сірыта, адзін на ўсім сьвеці.* Касперка Міласл.

СІРЯК, -а, *м.* Шарак, вопратка з шэрага сукна. *Выткылі сукна, цяперь нада пашыць сіряк у дарогу ад дожджу.* Слаўнае Мсцісл.

СІСТРА, -ы, *ж.* Сястра. *Мне сістра абіцала ныбраць сарочку, толька заблыці трэба купіць.* Лешчынка Мсцісл. *Я сваей сястры ні бачыў ужо гады са тры, як іна там жывець — ня ведяю.* Шумячы.

СІТНІК, -а, *м. бат.* 1. Сітнік, сітняк. *У, якей вісокій сітнік! На бізуны б быў харош, дывай нарвём.* Хвёдараўка Краснап. 2. Сітны хлеб. *Што ж, можа, сітніка купіць, калі хлеба ня хочыш?* Парадзіна Мсцісл.

СІТЦАВЫЙ, *прым.* Паркалёвы. *У горадзе нільга ж у сымытканкі хадзіць — купі сітцывыя плацьця.* Парадзіна Мсцісл.

СІУБА, -ы, *ж.* Сяўба, час севу. *Сёньня я скончыў сяўбу, нада браца за мылацьбу.* Канахоўка Клім.

СІУНЯ, -і, *ж.* Сяўня [сявалка]. *Сіўня твыя мылая, мала жыта лезіць у яе: часта насыпаць нада.* Новыя Капачы Мсцісл. *У маю сяўню ўлізая больш пуда жыта.* Палуж Краснап.

СІЦІЦ, сіццу, *м.* Паркаль. *Купіла сабе сіццу ны плацьця.* Б. Хутары Краснап.

СІЦЦЫВЫЙ, *прым.* Паркалёвы. *Мама купіла сіццывую кохту, толькі мне ні ныравіцца — пашыта дренна.* Крывы Лес Шумяц.

СІЧАС, *прысл.* Зараз. *У дзеўкі з хлопцым было такоя любеньня, што насьвет, а січас адно аднаму ні на вочы.* Баеўка Крыч. *Січас забрысаю лапці і буду абувацца.* Галічы Міласл.

СІЧЧЫК, -у, *м.* Паркаль. *У кыпірацыі січчыку німа, німа ш чаго дзіцёнку і рубацёнку пашыць.* Крывы Лес Шумяц.

СІЯЦЬ, *дзеясл.* Ззяць, зіхацець. *У яе шаўковы платок, аж сіяіць.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

СКАБА, -ы, *ж.* Стрэмка. *Шчыпаў лучыну і забіў сабе скабу ў паліц.* Сохана Мсцісл.

СКАБКА, -і, *ж.* Стрэмка. *Брату скабка ўбілысь у нагу, дык хадзіць ні можыць.* Лю-

дагошч Мсцісл. *Дзяўчына вялікую скабку ўвыгнала пад пазногыць.* Малюшын Краснап. *Дыстань мне скабку з пальца хуць шпількай.* Шыркі Раснян.

СКАБЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Скрэбці, чысціць (бульбу). *Скаблі ты бульбу, а я пубягу морквы вырву, ды зварім суп з мылаком.* Асмолавічы Мсцісл. *Хлопцы, ідзём мязку скабліць з бярозывыга жырдзя.* Бяседавічы Хоцім.

СКАВАРАДА́, -ы, *ж.* Скаварада, патэльня. *Памаж скавараду вехцям, ато бліны прыстаюць.* Бялішчына Мсцісл.

СКАВАРО́ДНІК, -а, *м.* 1. Спечаная на скаварадзе ляпёшка. *Хлеба ні было, дык я скавароднік на сьніданьня сьпікла.* Сабалеўка Калініншчына. 2. Чапяла. *Скавароднік плахей, зусім ні бярэць скаварады.* Янаўка Мсцісл.

СКАЖЭ́ННЫЙ, *прым.* Вар'ят, здурнелы. *Ляціць ны кані, як скажэнный.* Канічы Касцюк. *Чаго ты крычыш, як скажэнный?* Дубеец Касцюк.

СКАЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Сказаць. *Якій ты гынарлівый, табе нільга слова сказаць, дык ужо й зазлуеш.* Касцюшкавічы Крыч. *Няўжо ж ты яму нічога ні сказала?* Ельня Хоцім. *Скажы, як ты сюды пыпаў?* Залачова Мсцісл.

СКА́ЗЫВАЦЬ, *дзеясл.* Казаць. *Мірон сказываў, што выйна скора будзя.* Палуж Краснап.

СКАКА́НЬНЯ, -я, *н.* Скаканне. *Кінь ты сваё скаканьня! Як стрэказа ўсі роўна: мінуты спакойна ні пасядзіць.* Ушакі Чэрык.

СКАКА́ЦЬ, *дзеясл.* Скакаць. *На вічарынцы я скакаў да ўпаду.* Крычаў. *Наста — вёрткая дзеўка, лоўка скачыць.* Палуж Краснап. *У Хвяціса ігрішча: і пяюць, і скачуць, і крічаць, ажна хата хымянём ходзіць.* Гібалы Касцюк.

СКА́КІ, -ыў, *мн. л.* Скокі. *Ат радысьці дзеўка скакі пыдніла.* Палуж Краснап.

СКАКНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Скокнуць. *Скакнуў з лаўкі, ды гылавой аб мост, і плачыць, лыбаціна аж сінія стала.* Ушакі Чэрык.

СКАКУ́Н, -а, *м.* Скакун. *Ета наш скакун, адзін із луччых, відзіў, як ён скачыць — ногі прама зямлі ні кысаюцца.* Бяседавічы Хоцім. *Во ета скакун: каб табе прісеў на ігрышчы хуць ба на мінутку — усё скачыць і скачыць.* Слаўнае Мсцісл.

СКАКУНО́К, -нка, *м.* Стрыгунок, веснавое жарабя ўвосень. *Твой скакунок ік пірязімуе — будзіць ладным каньком.* Аляксандраўка Краснап.

СКАКУ́НЬНЯ, -і, *ж.* Скакуння. *Зося Міхасёва вот ужо скакуньня: целый вечыр табе будзіць скыкаць.* Дарагая Крыч.

СКАЛАЗУ́Б, -а, *м.* Скалазуб, насмешнік. *Хопіць табе насьміхацца, скалазуб ты!* Добрае Мсцісл.

СКА́ЛІКІ, -аў, *мн. л.* Кпіны. *Нечыга скалікі строіць, зубы лупіць — я табе ні рыўня!* Хвёдараўка Краснап.

СКА́ЛКА, -і, *ж.* 1. Кропля тлушча. *Еж, дзетка, крупеню, смашныя іна, бач скалык сколькі на ёй.* Зарубец Крыч. *Скалкі плавыюць па бульбі.* Хвёдараўка Краснап. 2. Крэмень. *Дзе гэста нашыя скалка — агню высячы, каб закурыць.* Ушакі Чэрык. *Мыя скалка даець многа агню.* Кокатава Мсцісл. *Нада найці такую скалку, каб ні лумалыся, ды й удружыць дзеду высікаць агонь.* Слаўнае Мсцісл.

СКАЛО́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Скалоць. *Лёд ля калодзіжа нада скалоць, ато ні падыйсьці.* Вярбоўка Раснян. 2. Укалоць. *Саломінаю няўмысля скалоў сабе вока.* Сохана Мсцісл.

СКАЛО́ЦЬВІНА, -ы, *ж.* Масьлянка. *Зьбіла масла троху, дык скалоцьвіна зысталася, на выпі, калі хочаш.* Тур'я Чэрык.

СКАМАРО́Х, -а, *м.* Музыка. *Усяк спляша, да ні ўсяк скамарох.* Гарманава Мсцісл. *А ў вас на вячоркі будуць скамарохі?* Мсціслаў.

СКАМЕ́ЙКА, -і, *ж.* Услон. *Садзісь бліжэй к сталу ны скамейку.* Карма-Пайкі Калініншчына.

СКАНДРЫ́ЧЫЦЦА, *дзеясл.* Умерці, здырдзіцца. *Тамаш Янкаў скандрычыўся ўжо: пашлі яму кыпаць на могілкі.* Куркаўшчына Мсцісл. *Як ударыў, тэй і скандрычыўся.* Палуж Краснап.

СКА́ПЫВІЧ, -а, *м.* Вілы, якімі скідаюць з воза гной. *На табе скапывіч, кыпай гной.* Горкі Краснап. *Вазьмі скапывіч у поля, ато гной будзіш рукамі з воза ськідаць.* Дубровіцы Клім.

СКАПЫ́РДЗІЦЦА, *дзеясл.* Скандрычыцца, умерці, здырдзіцца. *Жыў, жыў дый скапырдзіўся.* Палуж Краснап.

СКАПЫ́ЦІЦЦА, *дзеясл.* [1. Зачапіцца капытом, нагою пры бегу]. 2. Скасіцца, сказіцца, зрабіцца касым. *Яго вока ат завідзі скапыцілась.* Горкі Краснап.

СКА́ПЫЧ, -а, *м.* Вілы для скідвання гною з воза. *Забыўся ўзяць скапыч, цяпер во рукамі нада гной скідаць.* Халдзееўка Калініншчына. *Бяры скапыч, скідывай гной.* Хвёдараўка Краснап.

СКАРАВО́ДА, -ы, *ж.* Скаварада. *Ны скараводзе пякуцца бліны.* Іванаўка Хоцім.

СКАРАДА́, -ы, *ж. бат.* Расліна панікніца. *Скарада, або панікывіца, расьцець у лесі.* Хвёдараўка Краснап.

СКАРАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Баранаваць. *Зыпрыгай кыня ды едзь скарадзіць.* Крычаў. *Я сёньня скарадзіў ляда і бырану чыста палымаў.* Тульдава Раснян.

СКАРБО́НКА, -і, *ж.* Скарбонка, скрыначка на грошы. *Грошы кладзець у скарбонку.* Хвёдараўка Краснап. *Пыклаў грошы ў скарбонку, а як пабег, яны і забрызгыталі.* Парадзіна Мсцісл. *У яго грошы поўна скарбонка ныкладзена.* Кісялёва Буда Краснап.

СКАРЕ́Й, *прысл.* Скарэй, хутчэй. *Сьцяміў, што яго набіць хочуць, ды скарей наўхыдыка.* Шэвялёўшчына Мсцісл. *Давайця скарей есьці, ато часу ні маю доўга ждаць.* Азерцы Клім.

СКА́РІДА, -ы, *ж.* Нягодны [сквалыга]. *Скаріда ты, паскуда, што ты надзелыў?* Слаўнае Мсцісл.

СКАРІ́НКА, -і, *ж.* Скарынка. *Рызмачыў хлеба скарінку ды зьеў, аб тым і жыву целый дзень.* Паўлавічы Клім.

СКАРІ́НЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад скарынка. *Скарінычка хлеба ў кайстры зывылялысь, дывай будзім есьць.* Слаўнае Мсцісл.

СКАРО́ДЖЫНЬНЯ, -я, *н.* Баранаванне. *Скароджыння ў нас пачытай, што закончы-*

*на, толькі асталысь зыскародзіць засьценык, і ўсё.* Гарадзец Бабр.

СКАРЫ́НКА, -і, *ж.* Скарынка. *Сыбаку далі скарынку хлеба.* Малюшын Краснап. *Скарынкі хлеба і той пышкадываў даць, во гад!* Ушакі Чэрык.

СКАРЭ́Й, *прысл.* Скарэй, хутчэй. *Хоць бы памерці скарэй — так цяжка жыць стала.* Ушакі Чэрык. *Дай скарэй вады, мне дужа млосна стала.* Сохана Мсцісл.

СКАРЭ́ЙЦЯ, *прысл.* Скарэй, хутчэй. *Дзеці, скарэйця нясіце ваду.* Палуж Краснап.

СКАСІ́ЦЬ, *дзеясл.* Скасіць. *Як зывінуўся, дык за́ дзінь дзесяціну грэчкі скасіў.* Сохана Мсцісл. *Міхей зыклаўся з бацькым, што за дзень удваіх скосюць луг.* Палуж Краснап.

СКАТ, -у, *м.* Схіл, адхон. *Скат таго бузгорька засіваць ні будзім — сераўна там нічога ні вырасьціць.* Азёрцы Клім.

СКАЎРАДА́, -ы, *ж.* Скаварада. *На загнеце стаяла скаўрада, поўная нашкварыныга сала.* Пірагова Мсцісл. *Я купіла сабе новую скаўраду.* Машавая Бялынкав. *Блін згарэў! Хапай чапялу ды цягні скаўраду с печы!* Пірагова Мсцісл.

СКА́ЦЕРКА, -і, *ж.* Абрус. *Вазьмі, Лісавета, скацерку і зысьцялі стол.* Новыя Капачы Мсцісл.

СКАЦІ́НА, -ы, *ж.* Жывёла. *Нашто скаціна, і тая пынімая, хто яе корміць.* Парадзіна Мсцісл. *Пастух пыгнаў у поля скаціну.* Крычаў. *Біз скаціны які хыдзяін —быграк.* Канічы Касцюк. *Скаціна дайно ўжо з поля прышла.* Лешчынка Мсцісл.

СКАЦІ́НКА, -і, *ж.* Памянш. ад скаціна. *Скацінка любіць добрый дыгляд.* Сохана Мсцісл.

СКА́ЦІРКА, -і, *ж.* Абрус. *У мяне ёсьць васьмінітовыя скацірка.* Хвёдараўка Краснап. *Нясі скацірку, пакрый стол.* Новае Сяло Мсцісл.

СКА́ЦІРСТКА, -і, *ж.* Абрус. *Накрый стол скацірсткай.* Хвёдараўка Краснап.

СКА́ЦІРСЬЦЬ, -і, *ж.* Абрус. *Ны стале зыслана новыя скацірсьць.* Быковічы Мсцісл.

СКА́ЦІРЦЬ, -і, *ж.* Абрус. *Я выткыла сабе скацірці ў мінёны, кватэркі пылучыліся выразныя, калі белькыю пыткала.* Слаўнае Мсцісл.

СКА́ЧКІ, -чык, *мн. л.* Наросты на задніх нагах у сабакі. *Пыглядзі, якея скачкі ў етыга сыбакі, як відна, добрый гынчак.* Хвёдараўка Краснап.

СКАЧО́К, -чка, *м. заал.* Жук-дрывасек. *Пыймаў скычка ны калодзе — ён жа псуець дрэва.* Хвёдараўка Краснап.

СКВА́ПА, -ы, *ж.* Зайздрасць, сквапнасць. *Убачыць што, дык сквапа яго бярець, чаму ў яго такога нет.* Крывы Лес Росл.

СКВА́ПНЫЙ, *прым.* Сквапны, зайздросны. *Ёсьць людзі сквапныя на ўсё чужоя.* Сохана Мсцісл.

СКВА́ПНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Сквапнасць, зайздрасць, прагнасць. *Сам з муху, а сквапнысьць папоўскыя.* Бяседавічы Хоцім.

СКВАР, -у, *м.* Сквар, спёка. *У сквар усё шукаюць цяньку.* Кокатава Мсцісл. *У сквар ат жары і ат мух і ваднёў скаціну нільзя на полі ўдзіржаць.* Сохана Мсцісл.

СКВА́РКА, -і, *ж.* Скварка. *Зьеш ты хоць адну скварку, ато ты ўсё мыка́іш, а скваркі ні бярэш.* Маравілле Касцюк.

СКВА́РНА, *прысл.* Горача. *Сяньня дужа скварна, скот ад духаты і ад мух і ваднёў бяжыць куды відна. Сяньні так скварна, што зімля аж смыліць.* Сохана Мсцісл.

СКВА́РЫЦЦА, *дзеясл.* Скварыцца, смажыцца. *Сала скварыцца ў печы — нясі паўкварты на стол.* Канахоўка Клім.

СКВА́РЫЦЬ, *дзеясл.* Скварыць, смажыць. *Прыгытывала матка скварадў, каб скварыць сала, а ты яе зыніла.* Сохана Мсцісл.

СКВАРЭ́Ц, -рца, *м. заал.* Шпак. *Шпыка, кажыць, відзіў, а сквырца — не: дык жа скварэц і шпак — адно і тоя.* Новыя Капачы Мсцісл.

СКВІЛ, -у, *м.* Сквіл, піск, крык тонкім голасам. *Дзітвара справілі сквіл, хоць вушы затыкай.* Добрае Мсцісл.

СКВІРЯКЧЫ́СЯ, *дзеясл.* Сквярціся, плакаць. *Во, пычынаіць сквірякчыся, як ты ўжо ныдаеў сваім плачым.* Канахоўка Клім.

СКІ́БА, -ы, *ж.* Скіба, луста. *Атрезыў скібу хлеба на ўвесь бохан, узяў карэц вады ды дывай есьць.* Касцюшкавічы Крыч.

СКІ́БКА, -і, *ж.* Памянш. ад скіба. *Сколькі ж ты даеш мне хлеба — тыкая маленькыя скібка, дай больш.* Парфенава Калінінсшчына. *Адрэж мне скібку хлеба.* Крычаў.

СКІГЫТА́ЦЬ, *дзеясл.* Скігітаць [скавытаць], плакаць. *Чаго ты плачыш? На лекцыі нельга скігытаць.* Касцюковічы.

СКІДА́ЦЬ, *дзеясл.* Скідаць. *Ну і вад жа сяньні, хуць ты пасьледнію сарочку скідай.* Бяседавічы Хоцім. *Пайдзём сена с калёс скідаць.* Лапаціна Мсцісл. *Скінь яго с кыня.* Хоцімск.

СКІПЕ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Закіпець. *Вада ўжо скіпела, дывай мякіну зыпарым.* Глупікі Крыч. 2. Згарэць. *Пуня скіпела ды тла.* Палуж Краснап.

СКІ́СНУЦЬ, *дзеясл.* Скіснуць, зрабіцца кіслым. *Ні ўстыўляй у печ крупеню, калі будзіш есьць, бо іна скіснуць можыць, а пыстаў ны паліцу.* Бабынічы Мсцісл. *А каб ты скіс!* Сохана Мсцісл.

СКЛАД, -а, *м.* Склад, месца, дзе складзены розныя тавары. *Пры складзі ёсьць важыўня, там можна зважыць хлеб.* Палуж Краснап.

СКЛА́ДЗІК, -а, *м.* Памянш. ад склад. *У складзіку ляжыць хлеб — мяшкоў са тры, ды крупы мо с пуд, а болі нічога німа.* Гарадок Міласл.

СКЛАСЬЦЬ, *дзеясл.* Скла́сці. *Вучыціль скызаў скласьць сшыткі і кніжкі ў шахву.* Хоцімск. *Саломы з-пыд мылацілкі ніяк нільга скласьць у стог: усё раз'іжджаицца.* Касперка Міласл. *Склаў у хаце печ і грубку.* Палуж Краснап.

СКЛА́СЬЦЬ ТПРУ́НЬНІ. Зрабіць незадаволеную міну. *Чаго ты ўжо тпруньні склала, ні сярдуй, дос ужо.* Куркаўшчына Мсцісл.

СКЛЕ́ЗІНЬ, -зьня, *м.* [1. Слізень, слімак]. 2. Малеча. *Ах вы, склезьні, чаго вы тут поўзыіця?* Хвёдараўка Краснап.

СКЛЕП, -а, *м.* Склеп. *Пыд нашай хатай ёсьць склеп, там зусім цёмна біз агню.* Канічы Касцюк

СКЛЕШЧЫНЫЙ, *прым.* Спараваны. *Сыбакі лі гарода стыяць склешчыныя, а дзеці іх б'юць.* Цівецкая Краснап.

СКЛІЗЬ, -і, *ж.* Слізь. *З раны нейкыя склізь цячэць.* Хвёдараўка Краснап.

СКЛІКАЦЬ, *дзеясл.* Склікаць. *Пайдзём у сільсавет: на сходку склікаюць.* Палуж Краснап.

СКЛІКУН, -а, *м.* Склікач, той, што склікае. *Ты што ны склікуна ныняўсь, што ўсіх склікаіш?* Тур'я Краснап.

СКЛЫДАНЫЙ, *прым.* Складаны. *Купіў сабе склыданый нож брацъ у поля ці лес ёдучы.* Клясін Краснап.

СКЛЫЧЫЦЬ, *дзеясл.* Пераблытаць, здратаваць. *Сяньні пустухі весь лён склычылі.* Горня Хоцім.

СКЛЯНКА, -і, *ж.* Шклянка, кавалак шкла. *Хлопіц разрезыў нагу ны склянку.* Кісялёва Буда Краснап.

СКНАРА, -ы, *ж.* Скнара, скупы чалавек. *У скнары етыга сьнегу на кыляды ня выпрасіш.* Кокатава Мсцісл. *Ня будзь ты такей скнара! Хуць бы ты раз купіў сабе сотку гарелкі.* Гібалы Касцюк. *Во скнара — аж трасецца, каб чаго ў поглум ні пашло.* Парадзіна Мсцісл.

СКНАРЮГА, -і, *ж.* Павеліч. ад скнара. *Такога скнарюгі і ў сьвецi німа: ён жазы капейку павесіцца гатоў.* Хвёдараўка Краснап. *Во скнарюга — зімою лёду ў яго ні дыстаніш.* Парадзіна Мсцісл.

СКНАРЫЙ, *прым.* Скупы. *Ён вельмі скнары: есьць сабе шкадуіць, ня то што.* Хоцімск.

СКОБЛЯ, -і, *ж.* Скобля, струг. *Вазьмі скоблю ды апскаблі бярно.* Крычаў. *Войстрыя скобля, дык ладна бярэць кару.* Бялішчына Мсцісл.

СКОВЫРАДА, -ы, *ж.* Скаварада. *Узіла чыпялой сковыраду, ды ні ўдзіржала, і бліны пыляцелі ў попіл.* Шумячы.

СКОГЫТ, -а, *м.* Скогат, крык, лямант. *Чуецца скогыт людзей на пыжарі.* Лешчынка Мсцісл. *На вуліцы дзітвыра пыднялі скогыт.* Добрае Мсцісл.

СКОК, *дзеясл.* Скок. *Яна ні йдзець, як людзі, а бегыіць з падскокым: два шагі ступіць — і скок, два шагі ступіць — і зноў скок.* Арцёмаўка Міласл.

СКОКІ, -каў, *мн. л.* Скокі. *На вічарынцы былі скокі і песьні.* Камароўка Крыч. *Пысьля вячэрі пычаліс скокі — скымарох іграў на скрыпкі.* Арцёмаўка Міласл. *Хата ходырам ходзіць ад вашых скокаў.* Лешчынка Мсцісл.

СКОКНУЦЬ, *дзеясл.* Скокнуць. *Скокнуў з вагону ды й пыкаціўсь уніз пад атхон.* Старае Сяло Мсцісл. *Хацеў піряскочыць — скокнуў, ды ікраз у роў, пы самыя вушы.* Дарагая Крыч.

СКОЛЬКІ, *прысл.* Колькі. *Сколькі ты сяньні мычак спрала?* Маластоўка Краснап. *Сколькі ён шкоды тут нырабіў, бусайла етый!* Новы Свет Краснап.

СКОМА, -ы, *ж.* Аскома. *Пятрок кіслых яблык ня есьць: скомы баіцца.* Дубеец Касцюк. *Скому толькі ыгнаў на зубы, а смаку ніякыга.* Хвёдараўка Краснап.

СКОНІ, *прысл.* Спакон. *Сконі вякоў тут быў магільнік.* Горня Хоцім.

СКОНЧЫЦЬ, *дзеясл.* Скончыць. *У Зьмітрыка сын нівірсіцет скончыў ці што — вучоным стаў.* Палуж Краснап. *Сёньня я скончыў сяўбу.* Канахоўка Клім.

СКОП, -у, *м.* Натоўп [зборышча, гурт]. *Што ета там людзей такей скоп сыбраўся, што яны там дзелаюць?* Парадзіна Мсцісл.

СКОПЫМ, *прысл.* Гуртам, натоўпам. *Як сыбралысь уся дзярэўня на тылаку, скопым ураз жыта пыжалі.* Парадзіна Мсцісл.

СКОРА, *прысл.* Скора, хутка. *Скора наступіць вісна.* Крычаў. *Скора пычануцца месячныя ночы — мыладзік ужу ныстаў.* Гарадзец Міласл.

СКОРАПІСЕЦ, -сца, *м.* Скарапісец. *Донька — ныстыяшчый скорапісец — пішыць, ні гледзеўшы ў кнігу.* Мсціслаў.

СКОРЫНЬКА, *прысл.* Скоранька, хуценька. *Піліпка, зьбегый ты гукні дзядзьку, хай прыдзець, скорынька!* Глупікі Крыч.

СКОСА, *прысл.* Скоса, сярдзіта. *Ня ведаю, чаму ны мяне ўвесь час Антон скоса глядзіць.* Канічы Касцюк.

СКОТ, -а, *м.* Статак, жывёла. *Скот зыгналі ў абору.* Сутокі Мсцісл. *Як білі масла, макуху зыбралі, дык добра ў пойла скату.* Парадзіна Мсцісл.

СКРАБЫЦЬ, *дзеясл.* Скрабаць. *Ета вумный сыбака: як захочыць у хату, дык пычанець скрабыць у дзьверы кыгцямі — пакуль адчыніш, усё будзіць скрабыць.* Арцёмаўка Міласл.

СКРАПЛЯЦЬ, *дзеясл.* Змацоўваць. *Трайня скрапляе зад і перад калёс.* Зарубец Крыч.

СКРЁБЫЦЬ, *дзеясл.* Скрабаць, шкрабаць. *Ня скрёбый так сваімі ашлёпкымі: што яны табе вялікі, што скрёбыіш імі?* Арцёмаўка Міласл.

СКРІВІЦЦА, *дзеясл.* Скрывіцца. *Ліжак асеў, і мост скрывіўсь. Зламілась іцьвіна, полыз рызагнуўсь, і сані скрівіліс.* Бяседавічы Хоцім.

СКРІЛЁК, -лька, *м.* Скрылёк. *Бульбу пареж скрількамі і пыкладзі на скоўріду: так іна луччы пыджаріцца.* Бардзіч Краснап.

СКРІПЕЦЬ, *дзеясл.* Скрыпець. *Нада змазыць завесы, ато дужа скріпяць.* Бяседавічы Хоцім. *Адпусьціся ты, ня скріпі ўжо — яны ж нявіныватьі, што так сталыся.* Куляшоўка Клім.

СКРІУЛІНЫЙ, *прым.* Скрыўлены. *Цыркуль скріўлін.* Шарэйкі Касцюк.

СКРОГЫТ, -а, *м.* Скрыгат. *Ну й гыласок — скрогыт, як з калёс німазыных.* Старае Сяло Мсцісл.

СКРОЗЬ, *прыназ.* 1. Скрозь, праз. *Прыпаў, як скрозь зямлю прываліўсь.* Палуж Краснап. *Куля скрозь сьцяну прайшла.* Нашкавічы Мсцісл. 2. *прысл.* Усюды. *Пра ета скрозь гаворюць.* Гібалы Касцюк.

СКРУЦІЦЬ, *дзеясл.* 1. Скруціць, звязаць. *Вылась скруціла ў куксу.* Хвёдараўка Краснап. *Скруці, зьвярці тває кішкі ды ны кылясо!* Меншая Багацькаўка Мсцісл. 2. За-

таіць што, не аддаць. *Янкель-ткі скруціў мне тры рублі — ні атдаў.* Клімавічы.

СКРУ́ЧЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Скручваць. *Хлопіц стаў скручывыць свае паперкі ў трубку і хацеў іці, алі яго зыдзіржалі.* Слаўнае Мсцісл.

СКРУ́ЧЫНЫЙ, *прым.* Скручаны. *Ідзём мы пы дарогі, аж бачым — ляжыць нейкыя лахманіна скручыныя.* Арцёмаўка Міласл.

СКРЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Раскрываць. *Хуць Храмёнык і накрыў крышу, а прыйшлося скрывць яе.* Палуж Краснап.

СКРЫВІ́ЦЦА, *дзеясл.* Скрывіцца. *Твой левый сапог скрывіўся, зынясі яго ты к сапожніку, ніхай пыправіць.* Прусіна Касцюк. *Твыя хата нешта скрывілась.* Зялёны Сарай Мсцісл.

СКРЫ́ГАЦЬ, *дзеясл.* Скрыгатаць. *Ня скрыгый зубамі, ато мне жутка ат етыга дзелаецца.* Каніч Хоцім.

СКРЫЛЁК, -лька, *м.* Памянш. ад скрыль. *Маці дыла старцу скрылёк сала.* Кісялёва Буда Краснап. *Парэж бульбу скрылькамі, зварым з салым.* Парадзіна Мсцісл.

СКРЫЛІ́, -лёў, *мн. л.* Нарэзаная і падсмажаная на скаварадзе бульба. *Сёньня на 'бед жжар скрылёў.* Камароўка Крыч.

СКРЫЛЬ, -я, *м.* Скрыль [луста], скіба. *Атрэзыў сабе скрыль хлеба і есьць з вадою.* Іванаўка Хоцім. *Яму нада бальшэй скрыль хлеба атрезыць.* Арцёмаўка Міласл. *Нарэзыла бульбу скрылямі.* Палуж Краснап.

СКРЫЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* [Скрыляць], рэзаць [скрылямі]. *Скрыляй бульбу ў крупеню.* Палуж Краснап.

СКРЫ́НА, -ы, *ж.* Скрыня. *Чаму ета скрына адчынена — ты брала што?* Іванаўка Хоцім.

СКРЫ́НКА, -і, *ж.* 1. Скрынка, скрыня. *Скрынка поўна бяльлём ныкладзена.* Журбін Бялынкав. *У скрынкі стаіць пыстыялка, вазьмі ды еж.* Касцюковічы. *Зося рызыбралыся і схувала адзеньне ў скрынку.* Шумячы. 2. Шуфляда ў стале. *Пашукай у стале ў скрыньцы ножыка.* Гібалы Касцюк. *Пыкладзі шыла ў скрынку у стол.* Немерка Раснян.

СКРЫ́НЯ, -і, *ж.* Скрыня, вялікі сундук. *Бацька купіў мне скрыню на пысагу.* Маляцічы Крыч. *Мыя скрыня вялікыя — уся адзежа ўлезіць.* Азерцы Клім. *Палож хустку ў скрыню.* Мсціслаў. *У яе пылатна цэлыя скрыня.* Усполле Раснян. *Ныткала пылытна цэлую скрыню.* Гарбавічы Касцюк.

СКРЫ́ПАЦЬ, *дзеясл.* Скрыпаць. *Ня скрыпый дзьвярмі, ато ўзбудзіш бацьку.* Канічы Касцюк.

СКРЫПЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Скрыпець. *Новая вось скрыпіць.* Усполле Раснян. *Нешта нашы вароты скрыпяць, падмазаць нада, штоб ні скрыпелі.* Журбін Бялынкав.

СКРЫПІ́ЦА, -ы, *ж.* Кошык. *Ідзі насып скрыпіцу бульбы.* Бяліышчына Мсцісл.

СКРЫ́ПКА, -і, *ж.* Скрыпка. *У яе ны свадзьбе ігралі скрыпка, гармонь і бубін.* Пірагова Мсцісл.

СКРЫ́ПЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад скрыпка. *Але і звонка твыя скрыпычка — добра йграіць.* Белы Мох Мсцісл.

СКРЫ́ПЫШНІК, -а, *м. бат.* Скрыпень вузкалісты. *Скрыпышнік цьвіцець красными кылакольчыкамі.* Хвёдараўка Краснап.

СКРЫСЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Нядзеля. *У ета скрысеньня будзіць Самклідзіна вясельля.* Гарбавічы Касцюк. *Прыхадзі ў скрысеньня ці ў пынядзелык — абы-калі.* Старае Сяло Мсцісл.

СКРЫ́ЎДЗІЦЦА, *дзеясл.* Скрыўдзіцца, пакрыўдзіцца. *Ні кажы пры яго так, ато пачуе, дык скрыўдзіцца.* Парадзіна Мсцісл.

СКРЫШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Скрышыць. *Трэба дробна скрышыць сала ў тоўчынаю бульбу.* Канічы Касцюк.

СКРЮ́ТЫК, -тка, *м.* Скрутак. *Панёс ён нейкій скрютык пыд пахый, а што ў ім, я ні бачыў.* Крывы Лес Шумяц.

СКРЯБІ́ЛКА, -і, *ж.* Скрэбніца. *Пашукай скрябілку, нада кыня пашкресьць.* Канічы Касцюк.

СКУ́БАНЫЙ, *прым.* Скубены. *Етыя мычкі скубаныі, можна дзелыць кудзелю і прясьць.* Боханы Росл.

СКУ́БЛІНЫЙ, *прым.* Скубены. *Я ўжо дорьгыный, скубліный, як той гарох прі дарозі: хто йдзе — той скубнець.* Серчыцы Краснап.

СКУ́БСЬЦЬ, *дзеясл.* Скубці. *Баба пычыла скубсьць пер'я.* Палуж Краснап. *Едзь, мыя дачушка, бяз кубла, ‖ Чаму мне мычычык ня скубла.* З нар. песні, М. Г. 24.

СКУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Цкаваць. *Дос табе скуваць ны мяне людзей і ныгыварівыць ім ны мяне ўсяго. Лі яго двыра прайці нільзя: сыбакымі скуець.* Арцёмаўка Міласл.

СКУДЛЫ́ЧЫНЫЙ, *прым.* Скудлачаны. *Учапіўсь у выласы, ледзьві вырваўсь, скудлычыный ўвесь.* Парадзіна Мсцісл.

СКУЛА́, -ы, *ж.* Скула. *Скула села ны наге, дык хадзіць ні магу — так баліць.* Немерка Раснян. *Падумаіш, скула ікая, і зыкрануць нільзя.* Маляцічы Крыч.

СКУ́ЛІШНІК, -а, *м. бат.* Скульнік, верадовец. *Ат скулкі трэба знайсці скулішнік ды прыкласьці.* Брылёўка Краснап.

СКУ́ЛКА, -і, *ж.* Скулка, прышчык. *У брата па целі нейкія скулкі пашлі, ды балючыя.* Людагошч Мсцісл. *Скулка табе ў бок!* Хоцімск. *Села ў мяне скулка пыд пахыю, не магу руку падняць.* Пірагова Мсцісл.

СКУЛУНДА́, -ы, *ж.* Аткіды, смецце, астатак. *Ці многа ў цябе семя зысталося сеіць? Ат, зыстылася скулунда нейкыя.* Хвёдараўка Краснап.

СКУЛУПА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Скалупаць. *Скулупай зьверху зюм, а ўсё скінуў.* Парадзіна Мсцісл. 2. Ускалупаць [ускапаць]. *Лі дарогі так устыпталі, што лыпата ні лезіць, сажань таго места, а насілу скулупай.* Брылёўка Краснап.

СКУЛЬ, *прысл.* Скуль, адкуль. *Скуль етыя людзі едуць і куды?* Высокі Бор Краснап. *Скуль ты ўзяўсь? Ніхто ні бачыў, як ты прышоў, а ты пыявіўсь.* Боханы Росл.

СКУ́ЛЬЛЯ, -я, *н. зборн.* Скулле. *У яго скульля на шыі села, дык пакуль праврвець — шыі ні паверніць.* Арцёмаўка Міласл.

СКУПІРДА́, -ы, *м.* Скупярдзяй [скупы чалавек]. *Ты скупірьда, табе й етыга жалка.* Маластоўка Краснап. *Вот табе й быгаты, а ўсё хывае—такі скупірда.* Парадзіна Мсцісл.

СКУПІРДЗЯ́, -і, *м.* Скупярдзяй [скупы чалавек]. *Ён жа такей скупірдзя, што на кыляды лёду ня выпрасіш.* Вітрунь Касцюк.

СКУПІРДЗЯ́ГА, -і, *м.* Скупярдзяй [скупы чалавек]. *Быгачы ўсі скупірдзягі — самі сабе жалеюць, ня толькі другім.* Слаўнае Мсцісл.

СКУПІРДЗЯ́КА, -і, *м.* Скупярдзяй, скупы [ чалавек]. *Скупірдзяка ты — усяго жалеіш.* Хвёдараўка Краснап. *Ня будзь скупірдзякый, етый дрэні ўсюды многа.* Маластоўка Краснап.

СКУПІРДО́НСТВА, -а, *н.* Скупасць. *Скупірдонства ў цябе многа: усё хуваіш, а каму? Чорту лысаму!* Высокі Бор Краснап.

СКУПЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Скупляць. *Ён езьдзіць пы дзярэўніх ды скупляе лён.* Парадзіна Мсцісл.

СКУПЫ́Й, *прым.* Скупы. *Мой бацька дужа скупы, у яго грошы ня выпрасіш.* Клімавічы. *Во скупая: чуць-чуць вымындзырыла.* Куркаўшчына Мсцісл.

СКУ́РА, -ы, *ж.* Скура. *Мы сяньні ўдваіх забілі зайца, дык я сабе ўзяў скуру, а ён — мяса.* Бяседавічы Хоцім.

СКУРАЦЯ́НЫЙ, *прым.* Скураны, раменны. *Купілі мы сёньні скурацяны поіс.* Ушакі Чэрык.

СКУ́СНА, *прысл.* Смачна. *Ай, як скусна, хочыш паспробываць? Бяры еш.* Васілёўка Хоцім.

СКУ́СНЫЙ, *прым.* Смачны. *Скусны сяньні суп ты зварыла.* Серчыцы Краснап. *Зь етый яблыні яблыкі ні такія скусныя, як з тэй.* Халеўка Крыч.

СКУСЬЦЬ, *дзеясл.* Скубці. *Курыцу зарэзылі, трэба скусьць пер'я.* Парадзіна Мсцісл. *Мне нада курыцу скусьць ды пытрашыць скарэй, ато ні зварыцца к абеду.* Арцёмаўка Міласл.

СКУЧУРЫ́ЖЫЦЦА, *дзеясл.* [Акачурыцца], памерці, здохнуць. *Каб ты скучырыжыйся, гад едакій!* Горкі Краснап. *Быў пан, да скучырыжыўся, пысьля яго і племя ніякыга ні асталося.* Хвёдараўка Краснап.

СКУ́ЧЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Скучвацца [збівацца ў кучу, гурт]. *Ідзіця пы аднаму, ня скучывыйцесь на мосьце — ён можыць пріваліцца ат цяжысці ўсіх.* Боханы Росл.

СКУ́ЧЫНЫЙ, *прым.* Скучаны. *Авечкі стыяць, скучыныя пыд бярёзымі — жарка ім.* Боханы Росл.

СКУ́ШНА, *прысл.* Сумна. *Жыву я на сваім хутары ў адзіноцтве, скушна мне.* Пірагова Мсцісл. *Скушна табе, табе нада паззоднічыць, штоб людзі сварілісь.* Арцёмаўка Міласл. *Абвыкла тут, дык ўжо й ня скушна.* Сохана Мсцісл.

СКЫВАРО́ДНІК, -а, *м.* 1. Пячурка ў сцяне печы, дзе ставяць скавароды. *Вытры скыўраду і пыстаў у скывароднік.* Бяседавічы Хоцім. 2. Ляпёшка з жытняй мукі, спечаная на скавародзе. *Сяньні ныпікла скывароднікыў.* Хвёдараўка Краснап.

СКЫВІРЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Сплесці [няўдала, няўмела]. *Скывірзаў як-небудзь лапці і абуў — усё ня босы будзіць.* Хвёдараўка Краснап.

СКЫВЫРЫДА́, -ы, *ж.* Скаварада. *Дзе наша скывырыда? Я хацела яешню спрэч.* Маравілле Касцюк. *Пыстаў скывыраду з салым у бакоўку.* Касцюковічы.

СКЫГЫТА́НЬНЯ, -я, *н.* Скогат, сквіл [віск, скавытанне]. *Ныдаела ўжо етыя скыгытаньня — прагонь сыбаку вон!* Парадзіна Мсцісл.

СКЫГЫТА́ЦЬ, *дзеясл.* Скавытаць. *Сыбака скыгочыць нешта, ці ні пірябілі етыя хуліганы нагу паленам?* Канахоўка Клім.

СКЫЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Сказаць. *Маўмыра нейкыя, а ні хлопіц — ён жа слова баіцца скызаць.* Барысавічы Клім. *Ён такую мне крыўду скызаў, што я аж зыплакыла.* Слаўнае Мсцісл.

СКЫКА́ЦЬ, *дзеясл.* Скакаць. *Сяньні будзіць вічарынка, пайдзём, калі хочыш, скыкаць.* Бяседавічы Хоцім. *Тут мост дужа шурпатый, скыкаць нільзя — нагу зыскабіш.* Арцёмаўка Міласл. *Я бачыў сёньня ў лесе вавёрку — скыкала па дрэвах.* Смолькі Касцюк.

СКЫКУНО́К, -нка, *м.* Скакунок. *Наша жарёбычка — ныстыяшчый скыкунок.* Слаўнае Мсцісл.

СКЫЛАТНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Страсянуць. *Зяць скылатнуў торбычку, а там нічога німа.* Палуж Краснап.

СКЫМАРО́Х, -а, *м.* Музыка, скрыпач. *Ны вясельля ныняли двух скымарохыў.* Гібалы Касцюк. *Скымарох ны вічарінкі дужа дренна іграў — ны свадзьбу нада ўзяць другога.* Арцёмаўка Міласл. *Скымарохі на гусьлях іграюць.* Шарэйкі Касцюк.

СКЫНА́НЬНЯ, -я, *н.* Скананне, скон, смерць. *Доўга ён ліжаў, высах увесь, пакуль прышла пыра скынаньня.* Ушакі Чэрык.

СКЫНАРЮ́ГА, -і, *м.* Скнара, скупы. *Жыць з етым скынарюгым ні хачу: ён ня то што — есьць сабе шкадуіць.* Хвёдараўка Краснап. *Ува ўсім сяле толькі й ёсьць адзін скынарюга — Васіль: у яго згніець, а не дасьць нікому.* Маластоўка Краснап.

СКЫРАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Скародзіць, баранаваць. *Мікола паехыў скырадзіць, але конь упудзіўся і бырану пылымаў.* Добрае Мсцісл.

СКЫСАВУ́РЫЦЦА, *дзеясл.* Скоса паглядзець. *Ён ны мяне скысавурыўся.* Брылёўка Краснап. *Чаго ты скысавурыўся?* Брылёўка Краснап. *Чаго ты скысавурыўся ны мяне, што я табе зьдзелыў плахоя?* Кокатава Мсцісл. *Наша карова скысавурілась і чуць ні ўкалола малога.* Канічы Касцюк.

СКЫСЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Скасаваць, знішчыць. *Нада сусім скысываць старыя пырядкі і зажыць па-новаму.* Слаўнае Мсцісл.

СКЫХА́ЦЦА, *дзеясл.* Скахацца, пакахаць. *Скыхаўся мой зь етый выцірашкай, дык жыцьця ні стала: пайду я ат яго.* Шамава Мсцісл. *Адзін талір пыкаціўся, другей прызыстаўся, ‖ Знаю, знаю: мой міленькі з другою скыхаўся.* З нар. песні, М. Г. 43.

СЛАБО́ДА, -ы, *ж.* [Свабода], воля. *Слабоду нам далі.* Немерка Раснян. *Скаціна*

*слабоду пачула, дык ніспакойна стала.* Смолькі Касцюк.

СЛАБО́ДНЫЙ, *прым.* [Свабодны] вольны, незаняты. *Вазьмі слабодныга кыня ды іеджай прывязі.* Бобрыкі Мсцісл.

СЛА́БЫЙ, *прым.* Слабы. *Нашы ганкі зусім слабы — падгнілі.* Пацкава Мсцісл.

СЛАВА, -ы, *ж.* Чутка, пагалоска. *Пры яе дрэнныя слава ідзе, дзёхцім вароты хацелі мазыць.* Парадзіна Мсцісл. *Яго харошыя слава.* Хоцімск.

СЛА́ВІЦЦА, *дзеясл.* Славіцца. *Смаленск наш славіцца сваімі сьценамі, іх і хранцуз ні змог разьбіць.* Боханы Росл.

СЛАСЬЦЁНКА, -і, *м.* і *ж.* Ласун, ласунка. *Такой слaсьцёнкі, такея лізухі ні ў кога німа, як наша Марыля.* Хвёдараўка Краснап.

СЛАСЬЦЁХА, -і, *ж.* Ласунка. *Якая ты ў мяне, мыя дачушка, сласьцёха — усё салодкае любіш.* Канічы Касцюк.

СЛА́ЎНЫЙ, *прым.* Слаўны, добры. *Міхасёвай даццэ слаўны хлопец нашоўся.* Добрае Мсцісл. *Слаўныя драбіны купіў — добрыя калёсы будуць.* Тэкліна Шумяц.

СЛЕ́ПЕНЬ, -пня, *м.* Сляпень [сляпак]. *Пакуль праехаў етымі кустамі, дык слепні кыня заелі.* Камароўка Крыч.

СЛІ́ЖЫК, -а, *м.* [Сліжык], дробная рыбка. *Целый дзень сядзеў з вудыю, а пыймаў толькі пяць сліжыкаў.* Рэкта Калінінщчына.

СЛІ́ЗКА, *прысл.* Слізка [коўзка]. *Сяньні на вуліцы так слізка, што і прайцідь нільзя.* Канічы Касцюк.

СЛІЗО́ТА, -ы, *ж.* Слізота. *Лі калодзіся тыкая слізота, што і пыдайціць нільзя.* Канічы Касцюк.

СЛІСА́К, -а, *м.* [Латак], дошчачка або пучок саломы, якія ўстаўляюць у прарубку ў бярозе для стоку бярозавага соку. *Як будзіш зьліваць бярёзувік, дык ні павыбівай слісакоў, ато ўвесь бярозувік пайдзёць міма.* Бяседавічы Хоцім. *Нашто ты выкінуў слісак з бярозы?* Новае Сяло Мсцісл.

СЛО́ВА, -а, *н.* Слова. *Яго слова нярушыма, як скажыць, дык закон.* Арцёмаўка Міласл. *Але што ета за праціўныя дзіця — ні дасьць слова скызаць чылавеку!* Радзівонаўка Мсцісл.

СЛО́ЕЧЫК, -чка, *м.* Слоік. *Зьлі жыр у слоечык.* Палуж Краснап.

СЛО́ІК, -а, *м.* Слоік. *Ціхон, купі ты там мне слоік нівялічкі ны масла.* Добрае Мсцісл. *Усі слоікі варэньнем зыняты, а масла й не ўва што зьліць.* Дуброўка Мсцісл.

СЛОН, -а, *м.* Услон, зэдлік. *Падсунь слон к сталу, ніхай людзі сядуць.* Зялёны Луг Мсцісл. *Садзіся на слоні ды пысядзі троху — куды сьпішаійся?* Канава Хоцім. *Мы сядзелі на лаві, а ён сеў на слон.* Хвёдараўка Краснап.

СЛО́НЕЦ, -нца, *м.* Услончык. *Сядзь на слонец.* Касцюшкавічы Крыч. *Памый троху слонец, ато ён надта брудны, садзіцца на ім аж гідка.* Вінаградаў Міласл. *Міхась, падай слонец, ніхай дзядзька сядзець.* Гарадок Расцян. *Садзісь, кумок, там на слонец, ато лаўкі ўсі заніты.* Бяседавічы Хоцім. *На слонцы ліжала ныпрятка.* Роськаў Калінішчына.

СЛО́НКА, -і, *ж. заал.* Птушка слонка. *Ахвотнік — што слонка, што вутка — ні адрозьніць!* Парадзіна Мсцісл. *Слонку забіў з ружжа.* Хвёдараўка Краснап.

СЛО́НЧЫК, -а, *м.* Услончык. *Садзісь там ны лаўку і вазьмі сабе пад ногі слончык, ато нашы лаўкі высокія.* Бяседавічы Хоцім. *Стаіць слончык кыля сьцяны.* Юр'евічы Калінінщчына.

СЛУ́ЖБА, -ы, *ж.* Служба, работа ў якой-небудзь установе. *Ён нейк улез у службу.* Хвёдараўка Краснап. *Служба мыя тыкая, што на месьці ні пысядзіш — усё ехаць прыходзіцца.* Нашкавічы Мсцісл.

СЛУЖЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Служыць. *Насга раней служыла ў паноў пыкаёўкаю.* Гібалы Касцюк. *Яна служыць у сталоўкі ў Мсціслаўлі — абед пыдае, чай.* Пірагова Мсцісл. *Я ны сваім кані сем гадоў ужо работыю і яшчэ пяць будзіць служыць.* Бяседавічы Хоцім.

СЛУП, -а, *м.* Слуп. *Гэты слуп скора зываліцца.* Гарадок Раснян. *Кыля саду ўкыпалі слуп.* Дзяніскавічы Навазыбк.

СЛУХ, -а, *м.* Чутка, пагалоска. *Слух такі ходзіць, што выйна будзіць.* Канахоўка Клім.

СЛУ́ХАЦЬ, *дзеясл.* Слухаць. *Што ета з табою зьдзелалысь? Ты нічога ня можаш слухаць спакойна, калі табе гавораць.* Ушакі Чэрык. *Ён вярзець, што нялюба слухаць.* Куляшоўка Клім.

СЛУХМЯ́НСТВА, -а, *н.* Паслушэнства. *Матка любіла дзяцей за слухмянства, штоб іна ні скызала, яны ўсё дзелылі.* Слаўнае Мсцісл.

СЛУХМЯ́НЫЙ, *прым.* Паслухмяны, паслушлівы. *Хлопіц ён слухмяны, скажы яму што — ураз зьдзелыіць.* Канава Хоцім.

СЛУ́ХЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Слухаць. *Нініпрыятна мне было слухыць, што мне пры яго гыварылі, ды нічога ні падзілыіш — праўда.* Бяседавічы Хоцім. 2. Быць паслухмяным. *Трэба слухыць бацьку, ён к добрыму вучыць.* Канічы Касцюк. *Ён ня хочыць ні бацькі, ні маткі слухыць, а дзелыіць, як сам уздумаіць.* Арцёмаўка Міласл.

СЛУЧА́ЕМ, *прысл.* Выпадкам. *Случаем хто зайдзя, дык і хлеба на стол німа.* Брылёўка Краснап.

СЛУ́ЧАЙ, -я, *м.* Выпадак, здарэнне. *Ета ён рысказывыіць пра нідаўній случай, во што быў ны днях.* Арцёмаўка Міласл.

СЛУЧЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Здарыцца. *Доўга іх ні відаць — ці ні нішчасьця якоя, крый бог, случылася!* Пірагова Мсцісл. *Ты, кума, яшчэ загыдзя ні плач, кылі б зь ім што якоя случылысь, дык бы нашы ныпісалі.* Арцёмаўка Міласл.

СЛЫБАСІ́ЛЬЛІВЫЙ, *прым.* Слабасільны, нядужы. *Слыбасільлівый мой канёк, чуць цягня.* Хвёдараўка Краснап.

СЛЫ́ШКА, -і, *ж.* Чутка, вестка. *Згубіўся чылавек, і слышкі пры яго німа.* Маластоўка Краснап.

СМА́ГА, -і, *ж.* Смага. *Тыкая смага ў році, піць дужа хочыцца.* Слаўнае Мсцісл. *Ат смагі губы перасохлі.* Сохана Мсцісл. *Хуць бы ты мне даў вады выпіць — смагу прагнаць.* Гібалы Мсцісл.

**СМАЖО́НІКІ**, -аў, *мн. л.* Смажаная бульба на скавárадзе. *Наеўся смажонікаў, дык вады хочыцца.* Хвёдараўка Краснап.

**СМА́ЖНЫЙ**, *прым.* Смажаны. *Кызякі смажныя добра.* Сохана Мсцісл.

**СМА́ЖЫЦЬ**, *дзеясл.* 1. Смажыць, пячы. *Грыбоў ныбралі, будзем смажыць.* Зарэчча Мсцісл. *Матка ў печы смажыць бульбу з салым к абеду.* Сохана Мсцісл. 2. Паліць. *У хворыга ўсяды смажыць у році, аттаго яму і піць хочыцца.* Слаўнае Мсцісл.

**СМАК**, -у, *м.* Смак. *Удалісь прыснакі сяньня — добры смак маюць.* Добрае Мсцісл. *Выбігыўсь, дык зьясі сы смакым.* Палуж Краснап.

**СМАЛІ́НА**, -ы, *ж.* Смольны корч ці кавалак дрэва. *Дровы сырія, ні гыряць, пыдлажы смаліны, штоб різгарелісь.* Баеўка Крыч.

**СМАЛІ́ЦЬ**, *дзеясл.* 1. Паліць. 2. Страляць. *Немцы, бывала, як пычануць смаліць, дык усё зь зямлёю зьмішаюць — дзеца недзе.* Немерка Раснян. 3. Хутка ісці. *Куды, Сапрон, смаліш? У Чэрыкаў.* Палуж Краснап.

**СМАЛО́ВЫЙ**, *прым.* Смольны. *Смаловыя пні вырываюць вагой.* Гарадок Раснян. *З пнёў ідзець спычатку смаловыя выда, а затым шпігінар.* Зарэчча Мсцісл.

**СМАЛЬ**, -і, *ж.* Смаль. *Смаль набілысь у трубку, што й выбіць цяжка.* Лешчынка Мсцісл. *Нешта гарыць — смальлю пахніць.* Куляшоўка Клім.

**СМАРДА́**, -ы, *ж.* Парэчка, смародзіна. *Насморгай лісту з вішняў і смарды, будзем гуркі саліць, дык пыкладзём длі паху.* Парадзіна Мсцісл.

**СМАРЖО́К**, -жка, *м. бат.* Смаржок. *Смаржкі смашныя грыбы, толькі іх прамываць добра нада, ато азялісься ат іх.* Студзянец Касцюк.

**СМАРО́ДЗІНА**, -ы, *ж. бат.* [Смародзіна], парэчка. *Смародзіна ў садзе пасьпела ўжо, мы ўжо елі.* Новыя Капачы Мсцісл.

**СМАРШЧО́К**, -чка, *м. бат.* Смарчок. *Смаршчкі цяперыка растуць, а болі ніякіх грібоў яшчэ німа.* Хвёдараўка Краснап.

**СМА́ЧНЫЙ**, *прым.* Смачны. *Дай мне йшчэ боршчу — надта смачны.* Белы Мох Мсцісл. *Смачныя якія сёньня камы.* Крычаў.

**СМА́ШНА**, *прысл.* Смачна. *Усякій ба хацеў смашна есьць, ды не пріходзіцца.* Гарбавічы Касцюк. *Дывай зьдзелыім рулі: накрышым хлеба ў ваду, увальлём алею, во будзіць смашна!* Слаўнае Мсцісл.

**СМА́ШНЫЙ**, *прым.* Смачны. *Смашныя пылляндвіца выйшла.* Палуж Краснап. *Ныдзяры бульбы, дык я табе сьпяку смашную драчону.* Слаўнае Мсцісл.

**СМАШНЮ́ТКІ**, -кыў і -тык, *мн. л.* Ласункі [прысмакі]. *Ты глядзі, ён смашнюткый зыхацеў, еш, што даюць — смашнюткі ні пасьпелі длі цябе.* Палуж Краснап.

**СМЕРЦЬ**, -і, *ж.* Смерць. *Ой, як цяжка жыць, хоць бы ўжо смерць прышла.* Вербеж Чэрык. *После смерці каіньня німа.* Капічы Касцюк.

**СМЕХ**, -у, *м.* Смех. *Ну ды чаго етый смех, чаго ты смяесься?* Мануйлы Краснап. *Ішоў тут нейкі ды пываліўсь у гразь, во смеху было.* Дзеражна Касцюк.

**СМЕША́ЛЫЙ**, *прым.* Збянтэжаны. *Зараз пызнаў, што ён схлусіў, бо ён пычырванеў і зрабіўся смешалым.* Старае Сяло Мсцісл.

**СМОК**, -а, *м.* Вясёлка, радуга. *Ах, якей сёньні вялікі смок стыяў на небі пысьля дажджу — проста на ўсё неба была дуга.* Ушакі Чэрык.

**СМО́ЛКА**, -і, *ж. бат.* Смолка, драма́. *Смолка цьвіцець на лузе.* Палуж Краснап. *Ужо на ўсіх лагох смолка атцьвіла, і яе чырвоныя цьвяткі засохлі і абсыпалісь.* Сохана Мсцісл.

**СМОЛЬ**, -і, *ж.* Гарэлае, дым. *Недзе смольлю пахніць — наверна, лес гаріць.* Слаўнае Мсцісл.

**СМО́РАД**, -у, *м.* Смурод. *Сморад пашоў пы хаці — нейкыя расься гарыць.* Хвёдараўка Краснап.

**СМОРГ**, -а, *м.* Пільная работа. *Ох, якей у вас сёньня сморг ны пряжу.* Новае Сяло Мсцісл.

**СМО́РГЫЦЬ**, *дзеясл.* 1. Смыкаць, абрываць ліст з галінкі. *Нашто ты сморгыіш лісьця з вішыньняку, яно ж засохніць бяз лісьця.* Азерцы Клім. 2. Хліпаць. *Вот жа сморгыя — ніяк ня ўціщыцца.* Хвёдараўка Краснап.

**СМОРК**, -а, *м.* Летняя пара, работа. *Цяпер у нас самый сморк: бабы жнуць, а мужыкі снапы возюць.* Куркаўшчына Мсцісл.

**СМО́ЎЖ**, -а, *м. заал.* Смоўж, слізняк лесавы. *Лянь, якей страшный смоўж сядзіць на корані абабка.* Хвёдараўка Краснап. *Пайдзем скарей, ато пайзеш, як смоўж, дык смаўжу і бог вялеў поўсьць, пытаму што ў яго ног німа.* Арцёмаўка Міласл.

**СМУЖ**, -а, *м.* Смоўж. *Вунь пайзець смуж, я баюся — ён гадкій, склізкій.* Юркаўка Крыч.

**СМУРІ́ЖЫНЬНЯ**, -я, *н.* Смурыжанне. *Кінь смуріжыньня, толькі ўрем'я траціш, луччы вазьмі ў дзядзькі аммас ды атреж.* Крывы Лес Росл.

**СМУРО́Д**, -у, *м.* Смурод. *Пы хаце панёсься смурод ад печкі,* Лапаціна Мсцісл. *Якій ета ў хаці смурод, верна, комін закутан?* Капічы Касцюк. *У хаце ат пырысят, ягнят і цілят такі смурод, што дыхаць нільга.* Сохана Мсцісл.

**СМУРО́ДА**, -ы, *ж. бат.* Парэчка чорная. *Смурода яшчэ ні пасьпела: спелыя смурода бываіць чорныя.* Восаў Краснап.

**СМУРЫ́ЖЫЦЬ**, *дзеясл.* [Смуражыць], церці. *Пысмурыж вярёўку, каб кайстру абцерць.* Дарагая Крыч. *Смурыжу аборкыю бутылку, хачу атрезыць.* Горкі Краснап.

**СМУТ**, -а, *м.* Смутак. *Такей у міне на душе смут, што хоць воўкым вый.* Залесавічы Крыч.

**СМУ́ТА**, -ы, *ж.* Смутак, сум. *Пасьлі сьмерці сына ў яе тыкая на ліцэ смута, што аж страшна глядзець, здаецца, што іна і сьміяцца ня ўмела.* Слаўнае Мсцісл.

**СМУТЛІ́ВА**, *прысл.* Сумна. *Смутліва неік ны душэ: плакыць хочыцца.* Слаўнае Мсцісл.

**СМУ́ТНЫЙ**, *прым.* Сумны. *Хвёдырь ходзіць нейкій смутный, што йта зь ім такоя?* Новы Свет Краснап. *Чаго ты, Паўлюк, такі смутны сяньні?* Касцюшкавічы Крыч.

СМУЦІ́ЦЦА, *дзеясл.* Смуткаваць, сумаваць. *Німаведыма с чаго хлопіц пычаў смуціцца — нішто яго ні вісяліць і нічога ён ні кажыць, што зь ім.* Гарадзец Бабр.

СМЫК, -а, *м.* Барана, зробленая з яловых плашак, зубамі ў якой служаць сукі (ужываецца для баранавання ляда). *Зыпрыгай кыня ў смык, паедзім ляда бырынываць.* Хвёдараўка Краснап. *Ляда скырадзіць нада смык зьдзелыць, ато ў быране зубы павылымаіш.* Арцёмаўка Міласл.

СМЫКТА́ЦЬ, *дзеясл.* Смактаць, ссаць. *Дос табе смыктаць ету косьць, тут ужу нічога німа, еж мяса.* Залесавічы Крыч. *Вот як узяўся смыктаць гарэлку, дык ні адцягніш яго нічым.* Лешчынка Мсцісл.

СМЫКУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Смакаваць. *Пычыла есьць, смыкуваць і пальцы аблізываць.* Арцёмаўка Міласл.

СМЫЛЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Гарэць, пячы, смаліць. *Пыглядзі, — нешта смыліць у печы: сморад панесься.* Хвёдараўка Краснап. *Ат жары зімля аж смыліць.* Сохана Мсцісл. *Жырота ны дварэ, як у пеклі ўсё смыліць.* Тур'я Краснап.

СМЫЛЬЛЯ́НКА, -і, *ж.* Пацук. *Смыльлянка пупалыся ў пасытку.* Слаўнае Мсцісл. *Кошка спыймала смыльлянку.* Малюшын Краснап.

СМЫЛЬНЯ́НКА, -і, *ж.* Пацук. *Кошка спыймала бальшую смыльнянку.* Палуж Краснап.

СМЫРАХНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Спалохацца, спужацца. *Людзі дужа смырахнуліся, як ныляцелі бандзісты.* Маластоўка Краснап.

СМЫРГА́ЦЬ, *дзеясл.* Торгаць. *Маленькая дзевачка ўвесь час смыргала сваю матку за хустку.* Гібалы Касцюк.

СМЫРО́Д, -у, *м.* Смурод. *У хаце такі смырод пыцягнуў, ат памыік ці што.* Лешчынка Мсцісл.

СМЫРЬКА́ЧЫК, -а, *м.* Газніца, лямпа без шкла, капцюшка. *Увечарі зыпаляць смырькачык і сідзяць ды зюкыюць паціху.* Палуж Краснап.

СМЫ́СІЛ, -а, *м.* Сэнс. *Які табе смысіл зьнівыжаць чылавека, ды йшчэ свайго тываeasyрыша!* Слаўнае Мсцісл. *Якей жа мне смысіл прыдываць зы сваю цану, дай хуць ны кватэрку зырабіць.* Арцёмаўка Міласл.

СМЫ́ЧАНЬ, -і, *ж. бат.* Трава, падобная да асакі, лёгка высмыкваецца з кораня. *Смычань усёдно як сыка, расьцець на кочках пу балотах.* Хвёдараўка Краснап.

СНЕ́ДАНЬНЕ, -я, *н.* Сняданне. *Снеданьне яшчэ ні гатова, а вы прышлі, мае мылацельнікі.* Куляшоўка Клім.

СНЕ́ДАЦЬ, *дзеясл.* Снедаць. *Бягі гукні бацьку, ніхай ідзе снедаць — бульба ўжо зварылась.* Бакунавічы Чэрык.

СНОП, -а, *м.* Сноп. *Етый сноп дужа цяжкій, мабыць, ні прасох добря.* Пухнава Расня. *Хочыцца яшчэ хуць адзін сноп ныжаць, усё ны заўтрі менш будзіць жаць.* Балакеры Мсцісл.

СНУВА́ЛЬНЯ, -і, *ж.* Варштат для снавання красён. *Кумычка, пазыч мне свае снувальні сыснуваць красёнцы.* Бясседавічы Хоцім.

СНУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Снаваць. *Ты, Мар'я, пойдзеш снуваць кросны, а я буду маткі рызматываць.* Канічы Касцюк. *Удзень ніткі ў ложычку і снуй, так луччы будзіць.* Бяседавічы Хоцім.

СНУДА́, -ы, *ж.* Пастка. *Пыставіў снуду, каб злавіць крыта.* Слаўнае Мсцісл.

СНЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Снаваць. *Ня ўмеіш ты снываць: аднацёлык надзелыла.* Хвёдараўка Краснап. *Будзім сныващь кросны.* Касцюшкавічы Крыч.

СНЫ́ТКА, -і, *ж. бат.* Шнітка, дзягіль. *Снытку можна варыць, як шчавіль, толькі мыладую, а старыя іна нясмашныя.* Хвёдараўка Краснап. *Я там кыла забора троху сныткі ныжала сьвіньням, дык і цяпер ат рук пахніць.* Арцёмаўка Міласл. *Снытка — лапкымі такімі ў лесі, ато і ў садзі расьце.* Парадзіна Мсцісл.

СНЫХА́, -і, *ж.* Жывая, бойкая дзяўчына. *Табе ўходу німа, як сныха ты.* Хвёдараўка Краснап.

СО́ВІСНА, *прысл.* 1. Сорамна. *Совісна лгаць хоць каму.* Слаўнае Мсцісл. 2. Сумленна. *Работу сваю спыўняіць совісна, нічога ні скажыш, але чылавек ён скрітный — нічога ў яго ні дызнаіш.* Гібалы Касцюк.

СО́ВІСНЫЙ, *прым.* Сумленны, чэсны. *Ня бойся яго: ён — чылавек совісный.* Гібалы Касцюк. *Етый хлопчык — гадунец вучыцiля, таму ён такій совісный.* Слаўнае Мсцісл.

СО́ЙСКЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Сысквать, спаганяць. *Прыехыў агінт сойскывыць штрахоўку.* *Сусед сойскыя зь мяне грошы, што пазычыў.* Палуж Краснап.

СОК, -у, *м.* Сок. *Бярозывый сок салодкій, таму яго і бяруць зь бярозы.* Маравілле Касцюк. *Вішнёвыга соку ў гарелку пусьці, дык іна будзіць красныя і салодкыя.* Зяціца Мсцісл.

СО́КЫТ, -у, *м.* Сокат, сакатанне курыцы. *Бач, які сокыт пыднялі куры — вясну пачулі.* Ушакі Чэрык.

СО́ЛЕНЫЙ, *прым.* Солены, пасолены. *Соленыя рыжкі дужа смашныя.* Пірагова Мсцісл.

СО́ЛНА, *прысл.* Солана. *Ты дужа солна любіш есьць, а другей любіць ня так солна, вот і еш з адной міскі.* Вярбоўка Расняя.

СО́ЛНЫЙ, *прым.* Солены. *Капуста саўсім ня солна — падсып солі.* Арцёмаўка Міласл. *Ні мясныга, ні солныга нічога есьць нільзя — катар у яго.* Б. Хутары Краснап.

СОЛЬ, -і, *ж.* Соль. *Кажуць, што ў кампірацію прывезьлі соль, пайдзі даведайся, мо будуць дываць.* Гарадок Расня. *Нада зьезьдзіць ны мясьцечка купіць солі, ато і гаршка пысаліць нечым.* Бяседавічы Хоцім.

СОН, сна, *м.* 1. Сон, спанне. *Сон гылаву ўсіляя.* Самацевічы Касцюк. *Ня высьпісься, бач, табе сна ні хапаіць.* Зялёны Сарай Мсцісл. 2. Сон, уяўнасць. *Бачыў я сяньні страшный сон: нібыццам бы ны мяне ў лесі мядзьведзь ныпаў.* Маравілле Касцюк. *Ці ты ета ва сьне бачыў ці наўя?* Хвёдараўка Краснап. 3. *бат.* Сон-трава. *Сон ужо зацьвіў, ня будзе больш крэпкіх марозаў.* Барысавічы Клім.

СО́НІЙКА, -а, *н.* Памянш. ад сонца. *Сонійка выглінула з-зы хмары.* Глупікі Крыч.

СО́ННЫЙ, *прым.* Сонны. *Ён сонный пыдхваціўся ды пычаў адзівацца, а тады*

*ізноў лёг.* Палуж Краснап. *Ета сонныя грыва.* Пірагова Мсцісл.

СОНЦА, -а, *н.* 1. Сонца. *Сонца пячэць — ня вытрываць, і ракі блізка німа, штоб пакупацца.* Гарцуеўка Краснап. *Ужо сонца ўзышло, а ён яшчэ сьпіць — во гультай.* Сохана Мсцісл. *Улетку сонца пячэ.* Шумячы. 2. Сланечнік. *У нас у гародзе зацьвіло сонца.* Хвёдараўка Краснап. *Сонцы ўжу цьвітуць, скора будзіць семя.* Бяседавічы Хоцім. *Ны гародзе расьце сонца.* Іванаўка Хоцім.

СОНЬ, -і, *ж.* Санлівасць. *Сонь нейкыя ныпала, аніяк ня высплюся.* Горкі Краснап.

СОП, -у, *м.* Соп [сапенне]. *Ні магу слухаць сопу етыга: сапець і сапець, хуць бы на трохі пірістаў.* Палуж Краснап.

СОПКІЙ, *прым.* Сопкі [рассыпісты]. *Сопкыя зырадзіла сёліта ў нас бульба, рызварвыіцца нанет.* Залесавічы Крыч.

СОПУХ, -а, *м.* Сопуха, сажа ў коміне. *Высыпалі сопух з коміна.* Лютня Краснап.

СОРАК, -а, *ліч.* Сорак. *Я сорак рублёў узяў зы свайго кыбанчыка.* Вітрунь Касцюк.

СОРАМ, -у, *м.* Сорам. *Сорам табе, хлопча, так дзелыць, як ты дзелыіш.* Машавая Бялынкав. *Сораму німа ў етый дзеўкі так з хлыпцамі вадзіцца.* Азерцы Клім.

СОРАМНА, *прысл.* Сорамна. *І як ета ёй ня сорамна,— так агаліцца?* Дзіснакіта Мсцісл. *Аплюгавіўсь, апусьціўсь, аж сорамна глянуць ны яго.* Пірагова Мсцісл.

СОРТ, -у, *м.* Гатунак. *У нас ны гародзе расьцець многа ўсякіх сартоў квасолі.* Пірагова Мсцісл.

СОРЫКІ, -аў, *мн. л.* Саракі. *На сорыкі мыладзёж вешаіць на гумных гутарелі, а тады гутаюцца целый дзень.* Слаўнае Мсцісл. *Цяпер сорыкі ўжу ні празнуюць; што там празнывыць сорык мучынікыў, якея ці былі яны ці не.* Арцёмаўка Міласл.

СОРЫМ, *прысл.* Сорамна. *У гэстым домі была тыкая распуста, што люцкаму чылавеку было сорым зайці.* Ушакі Чэрык.

СОРЫМНА, *прысл.* Сорамна. *Сорымна ёй стала, аж пачырванела ў твары.* Зоры Чэрык.

СОТНЯ, -і, *ж.* Сотня, сто. *Тут мае быць з сотню гуркоў.* Палуж Краснап. *Дзьве сотні ўзяў Рыгор за бычка.* Мсціслаў.

СОХНУЦЬ, *дзеясл.* Сохнуць, высыхаць. *Абстругыныя дошкі скарэй сохнуць.* Сохана Мсцісл. *Піравярні ты вядро дыгары дном — хай сохніць.* Ушакі Чэрык.

СОШКІ, сошык, *мн. л.* Сошкі, вілаватыя палкі, якія ставяцца па баках калёс (воза), калі кладуць сена. *Ідзі атсякі сошкі, будзім ныклыдаць вялікей воз, штоб усё сена зыбраць.* Бяседавічы Хоцім.

СПАВІВАЛЬНІК, -а, *м.* Спавівач, вузкая стужка палатна, якім спавіваюць дзіця. *Пышукай ты, Мар'я, спавівальнік, спавіць малоччыка нада, хай засьнець.* Канічы Касцюк.

СПАВІТЫЙ, *прым.* Спавіты. *Мой хлопіц любіць спаць спавітый, ніспавітый ні за што ні засьнець.* Гарадок Расням.

С-ПАД, *прыназ.* З-пад. *С-пад гары цякець равок.* Канічы Касцюк.

СПАДЗЕЙНЫЙ, *прым.* Надзейны. *Гэта спадзейны чылавек, зьдзелыіць абізацельна.* Слаўнае Мсцісл.

СПАДЗЕЯ, -і, *ж.* Надзея. *Адна была спадзея, што ён уцячэць з цюрмы.* Слаўнае Мсцісл.

СПАДЗІВАНЬНЯ, -я, *н.* Спадзяванне, надзея. *Дрэнна жыць чылавеку без спадзіваньня на лепшую будучыну.* Сохана Мсцісл.

СПАДЗІВАЦЦА, *дзеясл.* Спадзявацца, мець надзею. *На другіх ні спадзівайся, а сам болі работай.* Гарбавічы Касцюк. *Нечыга табе, братка, спадзівацца на чужы кырывай.* Вінаградаў Міласл.

СПАДНІЗУ, *прысл.* Знізу, спадысподу. *Між масьніцымі шчэлка, дык дуе ў ногі адтуль — спаднізу.* Парадзіна Мсцісл.

СПАДНІЦА, -ы, *ж.* Спадніца. *Матка надзела квяцістую спадніцу.* Стары Дзедзін Міласл. *Я купіла сабе мульту ны спадніцу.* Ганнаўка Клім. *Матка пашыла мне спадніцу.* Шумячы. *Надзела новую спадніцу, кохту, пыдпірізала вышываный хвартух і пышла ны вясельле.* Арцёмаўка Міласл.

СПАДЫБАЦЦА, *дзеясл.* Падабацца. *Мне вельмі спадыбаецца каша з алеім, надта я яе люблю.* Шумячы.

СПАДЫСПЫДЗЬДЗЯ, -я, *н.* [Спод], ніз. *Аблавуша — грыб уродзі гывярушык і апенік, толькі спадыспыдзьдзя ў яе чорныя.* Хвёдараўка Краснап.

СПАЗЬНІЦЦА, *дзеясл.* Спазніцца. *Спазьніўся ты, хлопча, яна ўжо заручоныя за Хвёдара.* Ушакі Чэрык. *Ён рупіцца ехыць, баіцца, штоб ні спазьніцца.* Арцёмаўка Міласл.

СПАКІНУЦЬ, *дзеясл.* Пакінуць. *Хлопіц вылачыўсь за дзеўкый, а тады ўзяў ды спакінуў.* Палуж Краснап.

СПАЛІЦЬ, *дзеясл.* Спаліць. *Трэба галень у печы спаліць, каб мароз ня быў.* Хвёдараўка Краснап. *Мыладнёю спаліла гумно.* Горка Краснап. *Сыбяры етыя акраўкі ды спалі.* Крычаў.

СПАЛЫХНУЦЬ, *дзеясл.* Згарэць. *Спалыхнуў мой двор, і ня ўгледзіў.* Хвёдараўка Краснап.

СПАМІНАЦЬ, *дзеясл.* Успамінаць. *Пра ўсё спаміналі і пра ета спымянулі.* Маластоўка Краснап.

СПАРКІ, -аў, *мн. л.* Вязаныя рукавіцы. *Маці зьвізала мне спаркі, штоб цяплей было ў школу хадзіць.* Роськаў Калінінщчына.

СПАРЫЦЬ, *дзеясл.* Апарыць, спарыць. *Спарыў венік; спарыла руку.* Хвёдараўка Краснап.

СПАРЫШ, -а, *м.* Спарыш. *Знышла я сяньні ў жыці спарыш — шчасьця будзя нейкыя.* Палуж Краснап.

СПАСЕНЫЙ, *прым.* Выратаваны. *Во, пашоў спасеный ат сьмерці: яго знайшлі ўжо зьмерзлыга, ды адцерлі.* Гарадзец Міласл.

СПАСІБ, -а, *м.* Падзяка. *Памог я ёй увязаць воз дроў — зырабіў спасіб.* Пірагова Мсцісл.

СПАСІБА, *прысл.* Дзякуй. *Як вы жывіцё? Ды нічога сабе, спасіба!* Пірагова Мсцісл. *Спасіба таму кучыру, што зьвёз з двыра чучылу.* Вярбоўка Расням.

СПАСІБКЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Дзякаваць. *Ты кінь спасібкывыць, да еж, штоб наеўсь.* Парадзіна Мсцісл.

СПАСІБКЫНЬНЯ, -я, *н.* Падзяка. *Падбегла я ды пасобіла старой дыжаць кусо-*

*чык жыта, і што ж было зы спасібкыньня за ета.* Слаўнае Мсцісл.

СПАСІБКЫЦЬ, *дзеясл.* Дзякаваць. *Нада ёй памоч, іна хуць во будзіць спасібкыць; дужа ўжу іна рада, калі ёй хто пымыгаіць, сыма ні справіцца.* Арцёмаўка Міласл.

СПАСІБЫЧКА, *прысл.* Дзякуй. *Дасьвіданіца, доктар, спасібычка, што прышлі, даведаліся.* Янава Раснян.

СПАСОБНЫЙ, *прым.* Прыдатны. *Етый конь ні спасобный длі мяне.* Палуж Краснап.

СПАСЬЦЬ, *дзеясл.* Упасці. *Гунька з воза спала, а нехта й пыдняў.* Зяціца Мсцісл.

СПАСЬЦІГНУЦЬ, *дзеясл.* Спаткаць. *Няшчасьця чылавека спасьцігла: конь нагу злымаў.* Вербеж Чэрык.

СПАТНЕЛЫЙ, *прым.* Спатнелы, потны. *Рукі ў цябе спатнелыя.* Палуж Краснап.

СПАТНЕЦЬ, *дзеясл.* Спацець. *Спатнеў увесь, пакуль дыгнаў вас.* Іванаўка Хоцім.

СПАТЫКАЙЛА, -а, *м.* і *ж.* Чалавек або жывёла, што часта спатыкаецца. *Конь мой — спатыкайла: усё спатыкаіцца, ног ні пыдыміць.* Вербеж Чэрык.

СПАТЫКАЦЬ, *дзеясл.* Сустракаць. *Любінькыя ты мыя дачушычка, а калі ж я цябе спатыкаць буду?* Дубровіцы Клім.

СПАТЫКАЦЦА, *дзеясл.* 1. Сустракацца. *Мы кожый дзень зь ім спатыкаімся ны дарозі: я іду ў горыд, а ён з горыду.* Сапрынавічы. Мсцісл. 2. Спатыкацца, зачапіцца за што. *Што ты спатыкаісься ны гладкай дарозі?* Янаўка Расняи.

СПАТЫКАЧ, -а, *м.* Вожаг, палка, якою варочаюць у вогнішчы. *На табе спатыкач, пыварочый бульбу. Ты думаіш, што ты што люцкае? Кусок спатыкыча.* Хвёдараўка Краснап.

СПАЎНЕНЬНЯ, -я, *н.* Выкананне. *Спаўненьня было поўнае: атдаў ён усё, што кызаў.* Бяседавічы Хоцім.

СПАЦЬ, *дзеясл.* Спаць. *Улетку добра спаць у клеці: ня душна і мух німа.* Смолькаўская Буда Бялынкав. *Мякка сьцеліць, ды мулка спаць.* Сохана Мсцісл. *Прышоў ён ужо прыпызна, рызыбраўся і лёг спаць, ні вячэраўшы.* Палуж Краснап.

СПАЧАТКУ, *прысл.* Спачатку. *Хусту нада спачатку зурубаць, а тады насіць.* Пірагова Мсцісл. *Спачатку трудна было, а пасьля агоўтаўсь.* Мсціслаў.

СПАЧЧА, -а, *н.* Здарэнне. *Нада ж тыкі такоя спачча: з крышы забіцца.* Куркаўшчына Мсцісл.

СПІЛІЦЬ, *дзеясл.* Спілаваць. *Спілілі. бярозу сяеночы ны шляху.* Белы Мох Мсцісл.

СПІРША, *прысл.* [Спярша], спачатку. *Спірша було ён кызаў, што сам відзіў, а пазьней кажыць, што яму нехта кызаў.* Арцёмаўка Міласл.

СПІЦА, -ы, *ж.* 1. Спіца ў коле. *У катку зламілыся спіца.* Бязводзічы Мсцісл. *У катку спіцы дубовыя, а вобад вязовы.* Пухнава Расиян. 2. Касцяное шыла, што ўжываецца для падплятання лапцей. *Калодка, спіца і пянька — вот табе ўсё, што нада. Садзісь і пляці лапці.* Пірагова Мсцісл.

СПІЦЫЯЛІСТ, -а, *м.* Спецыяліст, мастак. *Ён майсьцір ны такея штукі. У яго ета раз-два й гатова — спіцыяліст харошый.* Арцёмаўка Міласл.

СПЛАЦІЦЬ, *дзеясл.* Сплаціць, заплаціць спаўна, выплаціць. *Усё ўжо сплаціў, больш ні доўжын.* Палуж Краснап.

СПЛАЧЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Выплачваць, плаціць часткамі. *Узяў у доўг — буду сплачывыць панімногу.* Б. Хутары Краснап.

СПЛЕЦЕНЫЙ, *прым.* Сплецены *Добра сплецены кош, хто ета плёў?* Залесавічы Крыч.

СПЛЮГАВІЦЬ, *дзеясл.* Сапсаваць [звесці на нішто]. *Ні атдывай шыць Довыду — ён табе сплюгавіць, што й насіць ні будзе чаго.* Расна.

СПЛЯСЬЦІ, сплесьць, *дзеясл.* Сплесці. *Ныдзярі-ка ты бярёсты ды спляці бірісьцянку ў ягыды хадзіць.* Слаўнае Мсцісл. *Ірвіця, дзеткі, краскі я, вам спляту вянок.* Гарбавічы Касцюк. *Спляці-ка мне чуні.* Бель Мсцісл.

СПОВЕДЗЬ, -і, *ж.* Споведзь, праборка. *Будзець табе добрыя споведзь за тоя, што коні пацірaў у лясу.* Канічы Касцюк.

СПОГЫД, -у, *м.* [Спогадзь, спагада], спачуванне. *Ні ат каго я ні пачуў спогыду, ніхто мне ні памог у маёй бядзе.* Тур'я Краснап.

СПОД, -у, *м.* 1. Спод, адваротны бок. *У маём пінжаку выцерся спод.* Канічы Касцюк. 2. Под у печы. *У нашай печы прадраўся спод.* Там жа.

СПОДКА, -і, *ж.* Вязаная рукавіца. *Зацуруй-ка ты мне сподку, ато распусьціцца ўся.* Добрае Мсцісл. *Надзень сподкі, бо будзе холадна ў рукі.* Прыпёчына Мсцісл. *Пыд рукавіцы трэба надзець сподкі, тады цяплей будзе.* Чыгрынаўка Расиян.

СПОДНІЙ, *прым.* Сподні. *Вось гэта гібінка бірвіна якраз прыдзецца на бугор сподніга бірна.* Добрае Мсцісл.

СПОДНІКІ, -аў, *мн. л.* Кальсоны. *Дай мне, маці, споднікі і рубаху — у лазьню пайду.* Арцёмаўка Міласл. *Ськінуў штаны і зыстаўсь у адных споднікых.* Горкі Краснап.

СПОЛЬЗЫВЫНЫЙ, *прым.* Скарыстаны. *Што спользывыныя, то добра, абы ў глум ні пышло.* Юшкі Мсцісл.

СПОЛЫХЛІВА, *прысл.* Спалохана. *Сустрэўшысь, ён так сполыхліва пыглядзеў на йго і пашоў, нічога ні скызаўшы.* Лютня Краснап.

СПОЛЬЗЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Скарыстаць. *Ня ўмеў спользывыць, дык усё так і прыпала.* Сохана Мсцісл.

СПОР, -у, *м.* [1. Спрэчка]. 2. Спор [спорнасць], прадуктыўнасць у рабоце. *Во жыта ў яго пырасло добрыя — будзіць яму спор сёліта, як прадасьць.* Ушакі Чэрык. *Німа спору ў еткый рабоці.* Маластоўка Краснап. 3. Падход цеста ў дзежцы. *Нехта атняў спор у дзежцы — цеста ні падыходзіць.* Там жа.

СПОРНА, *прысл.* Спорна, паспяхова. *Калі ты найміш ішчэ аднаго чылавека — табе будзіць вельмі спорна: хутчэй зробіця і больш заробіця.* Ушакі Чэрык.

СПОРНЫЙ, *прым.* Спорны. *У нас сім'я мылая, і хлеб, бач, у нас спорны — доўга ядзім адну быханку.* Ушакі Чэрык.

СПОРЦІЦЦА, *дзеясл.* Сапсавацца. *У*

*прудзе спорціўся рукаў, што дайжа нільзя й малоць.* Канічы Касцюк.

СПО́РЦІЦЬ, *дзеясл.* Сапсаваць. *Кравец мне кажух спорціў: вузкі зьдзелаў.* Чыгрынаўка Раснян. *З такою вешчу, як часы, трэба добра абыходзіцца, ато спорціць можна.* Добрае Мсцісл.

СПО́РЫЦЦА, *дзеясл.* 1. Спорыцца. *От нешта ў рабоці ня спорыцца — сколькі работыім, а нічога ня зьдзелылі.* Ушакі Чэрык. 2. Спрачацца. *Галыш ты, йшчэ будзіш са мной спорыцца!* Хвёдараўка Краснап. *Ён доўга спорыўся са мною.* Маластоўка Краснап.

СПО́РЬКА, -і, *ж.* Спрэчка. *Кіньце спорьку, паслухаім, што ўчыцілка скажыць.* Гібалы Касцюк.

СПО́ЎНІНЫЙ, *прым.* Выкананы. *Зыгад споўнінaй — зьдзелына ўсё ладна.* Ушакі Чэрык.

СПО́ЎНІЦЬ, *дзеясл.* Выканаць. *Вашу просьбу я споўніў — прівёз вам глушца: учора забіў.* Цёмны Лес Раснян.

СПРА́ВА, -ы, *ж.* Справа. *Калі аплашыцца мне, дык уся справа загінець.* Канічы Касцюк. *Ён хацеў пупсываць на сходцы ўсі мае справы.* Слаўнае Мсцісл.

СПРА́ВІЦЦА, *дзеясл.* Справіцца, паспець. *Зь імі ні справісься йціць.* Палуж Краснап. *Адна жонка ў хыдзяйстві ні справіцца, трэба чалядку наняць.* Бярозаўка Клінц. *Адурэньне, колькі ён даў нам выву- чыць! Мы ж не справімся.* Пірагова Мсцісл.

СПРА́ВІЦЬ, *дзеясл.* 1. Справіць, зрабіць. *Новы касьцюм сабе справіў.* Маластоўка Краснап. *Справіў сабе калёсы ны зялезным ходу.* Пірагова Мсцісл. 2. Наладзіць. *Ну, у новую хату ўвайшлі ўжо — можна і ўлазіны справіць.* Парадзіна Мсцісл.

СПРАВЯДЛІ́ВЫЙ, *прым.* Справядлівы, праўдзівы. *Ён чылавек справядлівы, яму можна верыць.* Мсціслаў.

СПРАДВЕ́КУ, *прысл.* Спрадвеку. *Спрадвеку так жывуць і іншага ня хочуць.* Канічы Касцюк.

СПРАДВЕ́ЧНА, *прысл.* Спрадвеку. *Еты камінь ляжыць тут спрадвечна.* Канічы Касцюк.

СПРАЗЬВЯСЬЦІ́, *дзеясл.* Ашукаць, абмануць, падвесці. *Вы мяне спразьвялі.* Палуж Краснап.

СПРАСІ́ЦЬ, *дзеясл.* Спытаць. *Спрасі ў етыга чылавека, мо' ён скажыць.* Канахоўка Клім.

СПРАСО́НКУ, *прысл.* Спрасонку. *Я ўсхапіўсь спрасонку і ні ведаю, куды йсьціць.* Янава Раснян.

СПРАСО́НЬНЯ, *прысл.* Спрасонку. *Мяне разбудзіў нейкій крік, дык я ўскачыў спрасоньня і ні ўцямлю, што ета са мною.* Арцёмаўка Міласл.

СПРА́ТЫЦЬ, *дзеясл.* Скінуць з воза сена. *Учора прывязьлі воз сена, да ні пасьпелі спратыць з воза, так і стыяў у пуні.* Дарагая Крыч.

СПРАЎЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Спраўляцца, упраўляцца, паспяваць. *І калі ты толькі пасьпіваіш спраўляцца з усёй гэстай работай — гэта ж жарт!* Ушакі Чэрык. *Было мутарна спраўляцца з етый працай.* Сохана Мсцісл. *Мой конь утрюх, а яго наўскыч і чуць спраўляіцца з ім.* Бяседавічы Хоцім.

СПРАЎЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Спраўляць ладзіць [рабіць]. *Калі спраўляюць памінкі па пакойніку, то вараць клёцкі.* Пірагова Мсцісл.

СПРА́ЎНА, *прысл.* Добра, ёмка. *Спраўна мы работаем: зраньня асець змалоцім, а тады яшчэ пойдзем жаць ці пахаць паедзем.* Пірагова Мсцісл. *Зьмітрок ета дзела спраўна зьдзелаў.* Расна.

СПРА́ЎНЫЙ, *прым.* Спраўны, у парадку, наладжаны. *Ці спраўна, кум, твыя сылмарезка, мне треба было нарезыць резкі.* Канічы Касцюк.

СПРЁБЫВЫНЬНЯ, -я, *н.* Спрабаванне. *Лісавета прінісла на спрёбываньня пячэню.* Тур'я Краснап.

СПРЕЧ, *дзеясл.* Спрагчы, спячы. *Прінясі шчэпычак, нада спреч яешню.* Студзянец Касцюк.

СПРІНА́ЦЦА, *дзеясл.* Распранацца, знімаць верхнюю адзежу. *Спрінайціся, дзядзькі, ды сідайце, скора прідуць і другія, тады пачнём.* Расна.

СПРІТ, -у, *м.* Спрыт, жвавасць. *Ён хлопіц ладный, але спріту таго нет, што ў бацькі быў: от быў чылавек!* Маластоўка Краснап.

СПРІ́ТНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Спрытнасць, жвавасць, лоўкасць. *Спрітнысьці ні хыпая спыймаць курыцу.* Палуж Краснап.

СПРІЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Спрыяць. *Ведыма, што іна будзіць спріяць сваёй маткі, а ні табе.* Арцёмаўка Міласл.

СПРО́БВАЦЬ, *дзеясл.* Спрабаваць. *Спробваў хлапчук абырычаць воз, ажно сілы ні хапіла.* Юшкі Мсцісл.

СПРОС, -у, *м.* Запытанне. *Дырма ты ны яго кажыш, ня ён ета зьдзелыў, прынамсі я ніколі ні зыўважыў, штоп ён браў што-небудзь біз спросу.* Касперка Міласл.

СПРУЖЫ́НА, -ы, *ж.* Пружына. *У маіх чысах спорцілась спружына, аттаго яны і ня йдуць.* Слаўнае Мсцісл.

СПРУНДЖЫ́НА, -ы, *ж.* Пружына. *Спрунджына ні работыя ў машыні.* Палуж Краснап.

СПРУХНЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Спарахненне, гніенне. *Эх, хлопцы, спрухненьня сірод вас пашло; ні тыя вы сталі.* Ушакі Чэрык.

СПРЫСЫВАЦЬ, *дзеясл.* Папрасаваць. *Нада сукно спрысываць, дык яно тады будзіць гладкыя, прігожыя.* Слаўнае Мсцісл.

СПРЫ́ТНАСЬЦЬ -і, *ж.* Спрытнасць. *Ік угледзіў выўка здаліку, дык наўхыдыка — адкуль і спрытнасьць узілася.* Парадзіна Мсцісл.

СПРЫ́ТНЫЙ, *прым.* Спрытны. *Спрытныя хлопчыкі, скора дайшлі ды двыра.* Стары Дзедзін Міласл. *Бач ты, якей ён спрыгный!* Слаўнае Мсцісл.

СПРЫ́ТНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Спрытнасць. *Сваёю спрытнысьцяю ён усім спыдыбаўся.* Сохана Мсцісл.

СПРЫЎЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Спраўляць. *Яны ў новую хату пірібіраюцца, дык улазіны спрыўляюць і нас звалі.* Арцёмаўка Міласл.

СПРЫЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Спрыяць, жадаць добрага. *Гэты бытрак спрыяіць свайму гаспыдару.* Кокатава Мсцісл.

СПРЭ́ГЧЫ, *дзеясл.* Спрэгчы, спячы. *На сьнедыньня спрэглі сабе яешні.* Сохана Мсцісл.

СПРЯГЧЫ́, *дзеясл.* Спрэгчы. *Трэба спрягчы мне яешню.* Палуж Краснап. *Матка спрягла мне яешню.* Гібалы Касцюк.

СПРЯНА́ЦЦА, *дзеясл.* Распранацца. *Сусед увайшоў у хату, пычаў спрянацца.* Палуж Краснап.

СПРЯСЬЦЬ, *дзеясл.* Спрасці. *Ганна спряла тры мычкі.* Гібалы Касцюк. *Нада спрясьць воўны ды выткаць андрак, ато ўжо надзець нечыга.* Вітрунь Касцюк.

СПУ́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Спалохацца. *Конь зайца спудзіўся.* Мышкі Расняп.

СПУ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Спудзіць [спалохаць], сагнаць. *Хацеў спудзіць кыня з аўса і махнуў ны яго шапкую, а ён як кініцца ны мяне, дык я ледзь пасьпеў уцячы.* Арцёмаўка Міласл. *Спудзіў вутку ў балоці.* Палуж Краснап.

СПУЖА́НЬНЯ, -я, *н.* Сполах [перапуд]. *Мой сын зыхварэў ат спужаньня.* Канічы Касцюк. *Пышапчы, бабка, ат спужаньня.* Хвёдараўка Краснап.

СПУЖА́ЦЦА, *дзеясл.* Спужацца, спалохацца. *Нехта ўбаку як сьвісьнець, а ноч была цёмныя — спужаліся мы.* Пірагова Мсцісл. *Чаго ты крычыш? Ня дужа я цябе спужаўся.* Негін Касцюк.

СПУЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Спужаць, напалохаць. *Ну й спужаў ты мяне, а няхай цябе ліха!* Кокатава Мсцісл.

СПУСК, -у, *м.* Спуск. *Пры спуску з гары ў мяне шлія пырвалыся.* Бязводзічы Мсцісл.

СПУСКА́ЦЦА, *дзеясл.* Спускацца. *Лес з гары атхона спускаўся да рэчкі.* Старае Сяло Мсцісл.

СПУСТО́ШЫНЫЙ, *прым.* Спустошаны, знішчаны. *Увесь гарод спустошыный — сьвіньні ці якоя ліха ўлезьлі, а мо хто нарошна ўпусьціў.* Дарагая Крыч.

СПУСТО́ШЫЦЬ, *дзеясл.* Спустошыць, знішчыць. *Коні зыбраліся ноччу ў гарод і спустошылі ўсё ды каліва: што зьелі, а што пытыптылі і пірімясілі з гразьзю.* Арцёмаўка Міласл. *Як ішла выйска, усё спустошыла тут.* Маластоўка Краснап.

СПУСЬЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Спусціць. *Бяроза гольлейкі чуць ні ды зямлі спусьціла.* Сапрынавічы Мсцісл. *Выстрыліў з двухстволкі два разы, спусьціў абаі куркі і ні пыпаў.* Арцёмаўка Міласл. 2. Збавіць [зменшыць]. *Ні хыпая аднае капейкі, а ён і етый ні спусьціць.* Мсціслаў.

СПУСЬЦЯ́, *прысл.* Счакаўшы. *Ганьнін сын — крапіўнік: ён радзіўся спусьця месяц посьлі вясельля.* Гібалы Касцюк.

СПУ́ТАЦЬ, *дзеясл.* Зблытаць. *Гарбузовыя націна абвіла і спутыла націну бульбы.* Слаўнае Мсцісл.

СПУХМУРЬНЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Спахмурнець, засмуціцца, зажурыцца. *Што ты, Хрісьціна, спухмурьнела нешта, ні здарова ці што?* Дзянісавічы Навазыбк.

СПУ́ЦІЦЬ, *дзеясл.* 1. Збіцца з дарогі. *Конь спуціў з дарогі і завёў у лес.* Палуж Краснап. 2. Збіць з дарогі, разбэсціць. *Злэя людзі спуцілі майго хлыпца.* Там жа.

СПУШЧА́ЦЦА, *дзеясл.* Спускацца. *З аднаго боку гара была крутая, а з другога яна атлогліва спушчалась к рацэ.* Пірагова Мсцісл.

СПУШЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Спускаць. *Ён скызаў, што конь каштуіць сто рублёў, і большы ня хочыць спушчаць ніводныга рубля.* Лешчынка Мсцісл.

СПУ́ШЧЫНЫЙ, *прым.* Спушчаны. *Апшыванка спушчына на раку.* Людагошч Мсцісл.

СПЫГА́ДА, -ы, *ж.* Спагада. *Што мне яго спыгада, калі б ён памог, ато што ён уздыхнець са мною, дык мне ат етыга лучшы ні станіць.* Арцёмаўка Міласл.

СПЫГА́ДНАСЬЦЬ, -і, *ж.* Спагадлівасць. *Ты спыдзівайсь ны яго спыгаднысьць: ты хуць парвісь, плакыўшы, дык ён табе хлеба ні пазычыць.* Арцёмаўка Міласл.

СПЫГА́ДЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Спагадваць. *Ты ўсё сам паеў, а аб другіх ні спыгадуеш.* Гібалы Касцюк. *Дужа ён будзіць пы табе спыгадывыць; хуць ты тут бяз хлеба сядзі, дык ён і ні падумыіць табе грошы прысласць.* Арцёмаўка Міласл.

СПЫГЫДА́ЦЬ, *дзеясл.* Спагадаць. *Чаму мне яму так ні спыгыдаць, калі ён добра ды мяне адносіцца?* Добрае Мсцісл.

СПЫДМА́Н, -а і -у, *м.* Абман [падман], ашуканства. *Узьвёў дзеўку ў спыдман.* Маластоўка Краснап. *Спыдманым яго ўзялі, а так ні ўзялі б.* Крывы Лес Росл.

СПЫДМА́НІВЫЦЬ, *дзеясл.* [Абманваць], падманваць, ашукваць. *На што ты спыдманіеш?* Краснаполле.

СПЫДМАНІ́ЦЬ, *дзеясл.* Падмануць, ашукаць. *Ты што, спыдманіць мяне хочыш ці праўду кажыш?* Касперка Міласл.

СПЫДМА́ННЫЙ, *прым.* [Падманны], непраўдзівы. *Я ўзяў, думаў — упраўдзе хлеб, ажно нейкій спыдманный кусок гліны.* Пірагова Мсцісл. *Спыдманный знак пыставіў.* Маластоўка Краснап.

СПЫДМА́НЧЫВЫЙ, *прым.* Падманлівы, здольны на абман. *Ня веру я табе, ты спыдманчывый чылавек.* Палуж Краснап.

СПЫДМА́НШЧЫК, -а, *м.* Абманшчык, ашуканец. *Ні верь ты яму — ён спыдманшчык, ні адну ўжо спыдмануў.* Малюшын Краснап.

СПЫДМА́НУТЫЙ, *прым.* Абмануты. *Веріла іму, а січас плачыць спыдманутыя, ды сьлёзы ўжу ні памогуць.* Палуж Краснап.

СПЫДЫБА́ЦЦА, *дзеясл.* Спадабацца. *Спыдыбаўся мне етый хлапец — пайду зы яго.* Сохана Мсцісл. *А што табе спыдыбалыся ў ёй? Нівялікыя, худая.* Цірэні Расняп.

СПЫДЫБА́ЦЬ, *дзеясл.* Спадабацца. *Спыдыбала мне адна дзяўчынка.* Бель Мсцісл. *Спыдыбала мне а ні ель, ні сысна, ‖ А ні ель, ні сысна, ні белыя бярёза.* ‖ *Спыдыбала мне жоўтыя івіна.* З нар. песні, М. Г. 13.

СПЫЗНА́, *прысл.* Позна. *Стала ўжо спызна, калі мы вярнуліся двору.* Іванаўка Хоцім.

СПЫЗНЫВА́ТА, *прысл.* Пазнавата. *Спызнывата троху, але нічога — пойдзем хутчэй, дык дайдзем да вечыра.* Сямёнаўка Хоцім.

СПЫЗНЫВАЦЦА, *дзеясл.* Знаёміцца. *Калі я быў у горыдзі, дык мне пріхыдзілась спызнывацца з розными людзьмі.* Бяседавічы Хоцім.

СПЫЗЫРАНКУ, *прысл.* Зранку, раніцою. *Ета трэба спызыранку ізьдзелыць.* Палуж Краснап.

СПЫЗЬНЕНЬНЯ, -я, *н.* Спазненне. *Прыхадзі ройна ў шэсьць, біз спызьненьня.* Старае Сяло Мсцісл.

СПЫЙМАНЫЙ, *прым.* Злоўлены. *Спыйманыга злодзія людзі сілна атпылысывалі.* Будагошч Мсцісл.

СПЫЙМАЦЬ, *дзеясл.* Злавіць. *Вярцёлку нялёгка спыймаць.* Хвёдараўка Краснап. *Кот спыймаў мышанёнка маліпькыга.* Маляцічы Крыч. *Спыймай мне мятлушку.* Хвёдараўка Краснап.

СПЫКАЕНЬНЯ, -я, *н.* Спакой. *Тут ніколі спыкаеньня німа, як ны бызарі ўсёдно: адурілі, аклумілі саўсім.* Арцёмаўка Міласл.

СПЫКВЫЛЯ, *прысл.* Паволі, паступова. *Ты ні сьпяшы, а дзелый спыквыля.* Кокатава Мсцісл. *Ты дужа ні разгонісься, а ўсё спыквыля.* Куркаўшчына Мсцісл.

СПЫМІНАЦЬ, *дзеясл.* Успамінаць. *Нехта мяне спымінаіць недзе.* Ганнаўка Клім. *Пры цябе мы толькі што спыміналі, а ты й тут.* Бардзіч Краснап.

СПЫМЯНУЦЬ, *дзеясл.* Успамянуць. *Спымяніця мяне добрым словам, калі паслухаіця мае рады.* Канахоўка Клім. *Пра ўсіх спаміналі і пры цябе ні забылісяспымянулі.* Маластоўка Краснап.

СПЫНУТРУВАЦЦА, *дзеясл.* Унадзіцца [спанатрыцца, узяць за звычку]. *Спынутруваўся кот збродувыць, дык нічога нільзя пакінуць, усё хуваць нада.* Слаўнае Мсцісл.

СПЫНЫРАВІЦЦА, *дзеясл.* Спадабацца. *Пубачым, як табе спыныравіцца, калі к табе прідуць у хату.* Бяседавічы Хоцім.

СПЫРАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Нарадзіць, радзіць. *Спырадзіла яна сына — ладны-такі хлапчук.* Хоцімск.

СПЫРАХНЕЦЬ, *дзеясл.* Згніць [струхлець]. *Мае ніткі ад сырасьці ў сундуку спырахнелі на нет, нільзя пыцягнуць — рвуцца.* Слаўнае Мсцісл. *Яго ўжо і костачкі спырахнелі: памёр у трэцім годзе.* Пацкава Мсцісл.

СПЫРТАЧЫЦЬ, *дзеясл.* Спартачыць, сапсаваць. *Нашто ты етыму краўцу атдаў? Ён табе ні пашыіць, а спыртачыць, пыртач еты.* Слаўнае Мсцісл.

СПЫРЯХНЕЛЫЙ, *прым.* Гнілы, струхлелы. *Пень етый спыряхнелый, на ім ужу і апенькі ні растуць — адна пыріхня.* Аляксандраўка Краснап.

СПЫТАЙНА, *прысл.* Тайна, [патаемна]. *Накінуўсь ны мяне адзаду спытайна і пуваліў, спасіба, Пёкла, скуль узілась, атбіла.* Бардзіч Краснап.

СПЫТАЙНЫЙ, *прым.* Патаемны, скрыты. *Кажуць, што тут нейдзі ў пана спытайный ход быў зы раку.* Лютня Краснап.

СПЫТАЦЦА, *дзеясл.* Спытацца, запытацца. *Зайшоў нейкій незнамый і спытаўся, айдзе татка.* Пірагова Мсцісл. *Спытаімсь у зязюлькі, па колькі год будзім жыць.* Ушакі Чэрык.

СПЫТАЦЬ, *дзеясл.* Спытаць. запытаць. *Спытай ты ў мяне, чаго я прышоў ды цябе — пазыч ты мне свайго плуга?* Цірэні Раснян.

СПЫТВЫРЯЦЬ, *дзеясл.* Патураць, даваць волю, разбэшчваць. *Дзіцёнка ні нада спытвыряць: кылі балуіцца, ні нада муўчаць, а нада пысваріцца.* Арцёмаўка Міласл.

СПЫТКАНЬНЯ, -я, *н.* Спатканне. *Наша першыя спытканьня было на месьці. Ета было наша пасьледнія спытканьня, і с тых пор я яго большы ні відзіў.* Бяседавічы Хоцім.

СПЫТКАЦЦА, *дзеясл.* Спаткацца. *Я йшоў у горыд і спыткаўся зь ім, ён, відаць, з горыду ішоў.* Канахоўка Клім. *Спыткаліся кумычкі, дык ніяк ні разыйдуцца.* Будагошчы Мсцісл.

СПЫТКАЦЬ, *дзеясл.* Спаткаць. *Цяжкі лёс спыткаў мяне.* Добрае Мсцісл. *Нілідашта спыткала хлыпца: жаніўсь, як бы й добра, а тады жонка ў абузу пусьцілась.* Восаў Краснап.

СПЫТРАБІЦЬ, *дзеясл.* Спажыць. *Многа дыбра спытрабілі за зіму.* Высокі Бор Краснап.

СПЫТЫКАЦЦА, *дзеясл.* Спатыкацца. *Ня дзелый ты сабе такія вісокія кублукі, ато будзіш ходзючы спатыкацца, ды й ногі будуць балець.* Слаўнае Мсцісл.

СПЫУНЯЦЬ, *дзеясл.* Спаўняць, выконваць. *Спыўняць службу трэба акуратна.* Сохана Мсцісл.

СПЫХАПІЦЦА, *дзеясл.* Спахапіцца. *На таргу яго лоўка абдурылі, пысьля спыхапіўсь, ды позна — ні дагоніш.* Карма-Пайкі Краснап.

СПЫХАПНУЦЦА, *дзеясл.* Спахапіцца. *Спыхапнуўсь сы сна і нічога ні сыбріжаіць, а коній німа.* Брылёўка Краснап.

СПЫХВАЦІЦЦА, *дзеясл.* Схамянуцца, агледзецца [спахапіцца]. *Спыхваціўся дарогыю, глядзь — ажно ўсі сваё пакупкі пыціряў нейдзі.* Слаўнае Мсцісл.

СПЫХВЫЛЯ, *прысл.* Паволі, паступова. *Мы спычатку грэблі спыхвыля, аж глянулі — туча зьбіраіцца, дык мы як узялісь, мігым у копы склалі.* Арцёмаўка Міласл. *Сьпяшыць некуды, мы і спыхвыля ету працу сёньня закончым.* Канічы Касцюк.

СПЫХМУРНЕЦЬ, *дзеясл.* Спахмурнець, засумаваць. *Чаго спыхмурнела, мыя лябёдушка ясныя, чаму табе нівясёла? Рыскажы мне сваю абіду.* Слаўнае Мсцісл.

СПЫЧАТКУ, *прысл.* Спачатку. *Спычатку ён быў вучыніком ў століра, а цяпер так наўчыўся, што ўжо сам усё дзелыіць.* Сохана Мсцісл.

СПЫЯЦЬ, *дзеясл.* Знітаваць [спаяць]. *Зломыныю касу нада спыяць, дык яшчэ гады два касіць будзіш, луччы як новыю.* Бяседавічы Хоцім.

СПЯЧЫ [спеч], *дзеясл.* Спячы. *Пазычце вы мне буханку хлеба, я заўтра спяку — тады аддам.* Пірагова Мсцісл.

СРАМНІК, -а, *м.* Сарамотнік. *Срамнік ты! Хуць бы людзей пыважыўся!* Гібалы Касцюк.

СРЕСТВА, -а, *н.* [Сродак], спосаб. *Я знаю средства ат парезу, каб кроў ні цікла: прілажыць рану пувучынай, дужа скора зыжываіць.* Слаўнае Мсцісл.

СРОК, -у, *м.* Тэрмін. *Па вексілю ўжу скора срок кынчаіцца, нада грошы ўзнасіць.* Арцёмаўка Мілаcл.

СРОСЬЦЬВІНЬНІК, -а, *м.* Сваяк, крэўны. *Суседый сросьцьвіньнік жывець у Маскве, дык і ён хочыць туды ехыць.* Маластоўка Краснап.

СРУБ, -а, *м.* Зруб, сцены будынка, непакрытыя страхою. *На сруб ужо балькі пыклалі, скора і крыць будуць.* Пацкава Мсцісл.

СРЭДЗЬСТВА, -а, *н.* Сродак, спосаб. *Надзеі на выздараўленьня німа, усі ўжо срэдзьства паспробывыныя.* Карабчына Мсцісл.

СРЭДЗЬСЬЦЬВІННЫЙ, *прым.* Карысны, дарэчны. *Ета длі мяне самыя срэдзьсьцьвінныя.* Хвёдараўка Краснап.

СРЭЗЬ, *прысл.* Празмерна, занадта. *Срэзь поўна вядро, разьліваецца.* Меліхава Смал.

ССАЦЬ, *дзеясл.* Ссаць. *Цялёнык такей слабый, што ссаць ні можыць — нада падтуўхаць яго к вымю і падзіржаць, пакуль пасьсе.* Арцёмаўка Міласл. *Дывай будзім папкі ссаць.* Палуж Краснап.

ССОЎ, ссову, *м.* Зрушша. *У рове пысьля дожджу зрабіўся ссоў берыга.* Бяседавічы Хоцім.

ССУНУЦЬ, *дзеясл.* Ссунуць, сапхнуць. *Ссунуў шапку ны патыліцу ды й прайшоў міма.* Парадзіна Мсцісл.

ССУРОЧЫЦЬ, *дзеясл.* Сурочыць. *Ссурочылі злэя людзі дзіцёнка: целыю ноч крычыць.* Палуж Краснап.

ССУШЫЦЬ, *дзеясл.* Высушыць. *Маці ссушыла дулік троху, дык у варіва з грібамі добра.* Вітрунь Касцюк. *Ссушыла мяне тая дзяўчына, што ш чорными брывамі.* З нар. песні, М. Г. 118.

СТАВАЦЬ, *дзеясл.* Хапаць. *Хто рана ні ўстаець, у таго хлеба ні стаець.* Прыказка. Гібалы Касцюк.

СТАВЕНЬ, -ўня, *м.* Вялікі гаршчок, у якім хаваюць крупы, малако. *Унясі ставень з крупамі, я іх пірасыплю ў торбычку.* Хоцімск. *Мылако стаіць у стаўні, налі сабе ў міску ды еж.* Іванаўка Краснап.

СТАВІНА, -ы, *ж.* Частка варштата, на якім ткуць кросны. *Ставіны ўнесьлі ў хату, кросны будзем навіваць.* Гусарка Клім. *Адна ставіна ніжэй стаіць за другую, так ткаць нялоўка.* Дзеражна Касцюк.

СТАВІЦІНА -ы, *ж.* Частка варштата, на якім ткуць кросны. *У ставах — дзьве ставіціны, на іх кладуцца два навоі і ўстаўляюцца дзьве дошкі, на аднэй дошцы сідзяць.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

СТАВІЦЦА, *дзеясл.* Ставіцца, устаўляцца. *Бёрда ставіцца ў набілкі.* Новае Сяло Мсцісл.

СТАВІЦЬ, *дзеясл.* Ставіць. *Пойдзем, Янка, ставіць нераты, ужу пычыла рыба церца.* Новыя Капачы Мсцісл. *Дычка мыя матку сваю ні ўва што ставіць.* Палуж Краснап.

СТАВЫ, -оў, *мн. л.* Варштат ткаць кросны. *Кросны выткані, трэба ставы разыбраць і вынесьць.* Вярбоўка Расням. *Ставы зынялі ўсю хату, пакуль вытчам, дык цесна, проста біда.* Рэкта Калінінщчына. *Прінясі ў хату ставы, будзім нывіваць кросны.* Слаўнае Мсцісл.

СТАДА, -а, *н.* Гурт. *Стада авец пасецца на полі, а пустушка й ня відна.* Гарбавічы Касцюк. *Стада па ўсім лузі разбрылося, і ні сыбраць.* Парадзіна Мсцісл.

СТАДОЛА, -ы, *ж.* Стадола, будынак для вазоў на заезным двары. *Тут некылі стыяла кыршма і пры ёй была стадола для пыдарожных.* Касцюшкавічы Крыч. *Во высокая хата — як стадола!* Касцюковічы.

СТАЙНО, -а, *н.* 1. Дошка, якая кладзецца ўпоперак калёс і канцы якой выстаўляюцца ўбакі (на яе ставяць ногі, калі садзяцца ў калёсы). *У Янкавых калёсых атарвалася стайно.* Ташна Клім. *Прывяжы дзегцярку к стайну.* Бяседавічы Хоцім. 2. Прылада, у якую ўстаўляецца грэбень для прадзіва. *Пыдай стайно, мне прасьць трэба.* Студзянец Касцюк. 3. Станіна ў самапрадцы. *Нада стайно пыправіць, ато круг ня ходзіць.* Хвёдараўка Краснап.

СТАЙНЯ, -і, *ж.* Стайня, хлеў для коней. *Стайня аччыніна, і кыня німа, мабыць, укралі.* Бабынічы Мсцісл. *Дос табе пасьціць кыня — вядзі ўжо яго ны стайню.* Ушакі Чэрык.

СТАІЦЦА, *дзеясл.* Стаіцца, затаіць штонебудзь. *Хлопіц ні стаіўся ды ўсю праўду й бахнуў.* Палуж Краснап.

СТАІЦЬ, *дзеясл.* Стаіць, затаіць. *Сёмка хацеў стаіць грошы, ды ні ўдалося.* Палуж Краснап. *Не, братка, ты ня стоіш таго, што ўзяў: людзі бачылі — дыкажуць.* Машавая Бялынкав.

СТАКАН, -а, *м.* Шкло да лямпы. *Паедзіш у горыд, дык купі там стакан ды лямпы, ато ўжо пасьледній, як паб'еццa, дык зыпаліць ня будзе як.* Барысавічы Клім.

СТАЛЬНЫЙ, *прым.* Сталёвы. *Пупаўся мне нож у кыпірацівi ні стальный, а зялезный: гнецца і ня режыць нічога.* Слаўнае Мсцісл.

СТАЛЮГА, -і, *ж.* 1. Сталюга. *Тоўстыя калода, ледзь ны сталюгі пыклалі.* Мсціслаў. *Сталюгі слабыя, лядзі, паломяцца ат етыга бірна.* Залесавічы Крыч. 2. Козлы для пілавання дроў. *Цягні сюды сталюгі, будзім піліць дровы.* Хвёдараўка Краснап. 3. Казёл, аб які малоцяць жыта. *Прынясі з-за сеці сталюгу, нада мылаціць жыта.* Тур'я Чэрык.

СТАМЕСКА, -і, *ж.* Стамеска, [шырокае] долата. *Прінясі мне стамеску; брусок у граблі зьдзелый, дык нада дзірку прабіць.* Бяседавічы Хоцім.

СТАМЛЕНЬНЯ, -я, *н.* Стамленне, знядужанне. *Другей дзень ны мяне некыя стамленьня найшло: ні то што, дайсьці ды стала цяжка — прустудзіўсь нійначый.* Меліхава Смал.

СТАН, -а, *м.* 1. Скат, чатыры колы. *Э, брат, тут ні адзін каток, а чатыры, цэлы стан патрэбін.* Парадзіна Мсцісл. *У калёсах — стан каткоў.* Аршаншчына. 2. Месца на полі, дзе статак адпачывае ў цяньку. *Пыгонім кароў у стан, ніхай адпачнуць троху.* Хвёдараўка Краснап.

СТАНАВІЦЦА, *дзеясл.* Станавіцца. *Гэта бульбяньне ўжо абгліданае, ты станавісь далей.* Пірагова Мсцісл.

СТАНЦЫЯ, -і, *ж.* Станцыя, вакзал. *Нынялі сабе фурмына ехыць ны станцыю.* Сохана Мсцісл.

СТАНЬГОМ, *прысл.* У нерашучасці. *Што ты стаў станьгом? Кажу табе, ідзі прасі ў яго прашчэньня.* Лешчынка Мсцісл.

СТАРАНА, -ы, *ж.* Старана, палавіна гумна ад току да сцяны. *Хлеба сяньні будзіць: поўна старана жытам закладзена.* Пухнава Расиян.

СТАРГУВАЦЦА, *дзеясл.* Старгавацца. *Старгуваліcь мы зь ім аб каню за сто дваццыць рублёў.* Пірагова Мсцісл.

СТАРЕЙШЫЙ, *прым.* Старэйшы. *Старейшый сын — любіміц у бацькі.* Слаўнае Мсцісл.

СТАРЕЦКІЙ, *прым.* Жабрацкі. *У цябе мяшок пахож ны старецкій, толькі піріпярэчкі пашыць, каб можна было за плечы зычапіць.* Слаўнае Мсцісл. *Нычапіў старецкую торбу і пашоў пы дзяреўніх.* Высокі Бор Краснап.

СТАРЕЦТВА, -а, *н.* Жабрацтва. *Абгалелі так, што хуць торбу чыпай ды йдзі ў старецтва.* Слаўнае Мсцісл.

СТАРІ, *прысл.* Старэй. *Я ж удвыя старі зы яго: мне сорык гадоў, а яму дваццыць.* Арцёмаўка Міласл.

СТАРІК, -а, *м.* Стары, дзед. *Бязьдзетныя старік і старуха ўзялі сабе сіротку за сына.* Мазалава Мсцісл. *Ні забіжайця вы старіка, вы, мыладзя!* Машавая Бялынкав.

СТАРІЦ, -рца, *м.* Жабрак. *К вакну падышоў старіц і просіць мілыстыньку.* Крычаў. *Сяньні к нам прішоў старіц, а тут і куска хлеба ны стале німа, дык я даў крошку сала.* Бяседавічы Хоцім.

СТАРОШЫНЬКІЙ, *прым.* Старэнькі. *Старошынькій дзедзька быў сяньні ў нас.* Бардзіч Краснап.

СТАРУХА, -і, *ж.* Старуха, старая жанчына. *Старуха сядзіць на прызьбі і вяжа панчохі.* Людагошч Мсцісл.

СТАРУШКА, -і, *ж.* Старэнькая бабка. *Старушка села на зэдлік аддыхнуць.* Крычаў.

СТАРЦУВАЦЬ, *дзеясл.* Жабраваць. *Січас яму толькі старцуваць іці: дзеці памерьлі, карьміць некыму.* Меліхава Смал.

СТАРЧЫХА, -і, *ж.* Жабрачка. *Зімою адна старчыха зьмерзла.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Пріхадзіла сьліпая старчыха, прасіла хлеба, а я ёй даў пяць капеік.* Слаўнае Мсцісл.

СТАРШЫЙ, *прым.* Старэйшы. *Старшы брат быў атчужоны ат сям'і.* Ушакі Чэрык.

СТАРШЫНЯ, -і, *м.* Старшыня. *Старшыня РВК — самы вышэйшы начальнік у раёне.* Касцюковічы.

СТАРЫЙ, *прым.* Стары. *Стары чылавек, а гаворыш такую брыду.* Стары Дзедзін Міласл. *Старому трудна і с печы зьлесьці.* Гарадок Расиян. *Наша клёць саўсім старыя.* Канава Хоцім. *Стріха старыя, чуць ліпіць; яе веціp во-во зьнясець.* Слаўнае Мсцісл.

СТАРЫК, -а, *м.* Стары чалавек. *Нейкі старык сь сівый быpадою пашоў.* Мацутаўка Расиян. *Глупства з твайго боку абманівыць старыка.* Добрае Мсцісл.

СТАРЫНАТКА, -і, *ж. заал.* Птушка стрынатка. *Ныпаў сяньні старынатак, дык забіў адну.* Хвёдараўка Краснап.

СТАРЫСТА, -ы, *м.* Стараста. *Раней быў старыста.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Сапрона абыбралі ў старысты.* Дзіснакіта Мсцісл.

СТАРЫЦ, -рца, *м.* Жабрак. *Старыц прышоў, дай яму хлеба.* Рылаўшчына Мсцісл. *Па вуліцы йдзе старыц з бандурай.* Кісялёва Буда Краснап. *Старыц просіць падыяньня.* Паходавічы Чэрык.

СТАРЫЧОК, -чка, *м.* Дзядок, старэнькі чалавек. *Мельнік быў такі маліңкій старычок.* Сохана Мсцісл.

СТАТНЫЙ, *прым.* [Высокі, стройны], удалы, добры. *Статный будзя етый лён.* Брылёўка Краснап.

СТАТУЙ, -я, *м.* Чалавек высокага росту. *Вун пашоў статуй — вышы ўсіх на целыю голыву.* Тур'я Чэрык.

СТАТЫК, -тка, *м.* Статак. *Сяньні пастух пыгнаў статык ныранкі.* Залесавічы Крыч. *Уруга статку на етым лузе.* Паўлавічы Клім. *Пастух гоніць статык у поля.* Кокатава Мсцісл. *Ужо статык прішоў с поля.* Нізькі Касцюк.

СТАЎ, -ва, *м.* Запруда, возера. *Ны ялавым ставу зрабіла выда прорву.* Сохана Мсцісл.

СТАЎЛЕНЫЙ, *прым.* Стаўлены, будаваны. *Стаўлёны горыд будзіць гніць,|| А я молыда буду жыць.* З нар. песні, М. Г. 24.

СТАЦЦА, *дзеясл.* Зрабіцца. *Пайка ўжо стаўся пісарым.* Палуж Краснап. *Што с табою сталыся, мыя дзетычка, чаго ты плачыш?* Белы Камень Бялынкав.

СТАЦЬ, *дзеясл.* 1. Стаць. *Побыч Кузьмы і я стаў.* Канічы Касцюк. *Конь ішоў, ішоў ды стаў.* Мацутаўка Расиян. *Ён ныгібаў арешыну, а іна стала зводыль, штоп пыймаць зы макушку.* Арцёмаўка Міласл. 2. Пачаць. *Як стаў яго прабіраць — няло такі, аж заплакаў.* Ушакі Чэрык. *Янка зыпаліў цяпло і стаў печ ракаў.* Куляшоўка Клім. *Сталі ўжо гыняць кароў ыраньык.* Маластоўка Краснап. 3. Зрабіцца. *Наеўся дурніц, аж кепска стала.* Барадзькава Крыч. *Во ўвайрей бегшы — мокрый увесь стаў.* Слаўнае Мсцісл. *Под у печы стаў гырбаты, пірісладь нада.* Хвёдараўка Краснап.

СТАЯ, -і, *ж.* Парода, гатунак. *У Сьціпана сьвіньні харошыя сталі: укармліваюцца ны сала скора.* Гібалы Касцюк.

СТАЯК, -а, *м.* Комін ад столі да страхі. *Стаяк зaваліўся, нада пуправіць, ато тапіць нільзя: хату спаліць можна.* Карма-Пайкі Краснап.

СТАЯЦЬ, *дзеясл.* Стаяць. *Пасуда стаіць у судніку.* Пацкава Мсцісл. *У галубніку стаяла бочка.* Тур'я Чэрык. *Кросны ў хаці стаяць, а ткаць некаму.* Гібалы Касцюк. *Тыкая жара стаіць, што трыва пысыхая.* Палуж Краснап. *Пагода стаяла цёплыя.* Машавая Бялынкав.

СТВОЛЬНЫЙ, *прым.* Сцяблісты. *Як кылыкалуша зацьвіцець, дык нільзя ўжу рэцькі сеіць: будуць ствольныя.* Арцёмаўка Міласл.

СТОГ, -а, *м.* Стог. *Пыклалі стог сена. Пыд стог ны адоніщча трэба класьць хвырасту.* Тур'я Краснап.

СТОЙКА, -і, ж. Столак [стул, табурэтка] з прарэзанаю ў верхняй дошцы круглаю дзіркаю, у якую ставяць дзіця, каб прывучыць яго стаяць на нагах. *Нада Йваньку стойку змайстрыць, хай вучыцца стыяць.* Хвёдараўка Краснап.

СТОІЦЬ, дзеясл. Каштаваць, быць вартым. *Ета шахва дорыга стоіць.* Палуж Краснап. *Етый конь стоіць дзьвесьця рублёў.* Арцёмаўка Міласл. *Нічога наш вартаўнік ня стоіць — сёньні коні на жыці було дужа многа.* Касцюковічы.

СТОК, -у, м. Сток, спад. *У нашыя речкі сток у возіра.* Слаўнае Мсцісл.

СТОЛ, -а, м. Стол. *Накрывай стол абрусам, будзем абедаць.* Беразяк Краснап. *Прыбяры са стыла трошку, ато брыдка ат людзей, што так брудна.* Ушакі Чэрык. *Міска стаіць ны стале.* Стары Дзедзін Міласл.

СТОЛАК, -лка, м. Столак, табурэтка. *Пыстаў столак чалавеку, ніхай сядзіць.* Белы Камень Бялынкав.

СТОЛІК, -а, м. 1. Памянш. ад стол. *Столік нізкі, сядзець за ім нявыгодна.* Шарэйкі Касцюк. 2. Скрынка ў стале, шуфляда. *Пылажы ключы ў столік.* Бяседавічы Хоцім.

СТОЛІР, -а, м. Сталяр. *Столір зьдзелыў нам адзёжный шкап.* Слаўнае Мсцісл.

СТОЛЫК, -а, м. Шуфляда. *Бацька пыклаў грошы ў столык.* Малюшын Краснап.

СТОЛЬ, -і, ж. Столь. *Ны хаце столь трэба перамяніць — дошкі пагнілі.* Янаўка Мсцісл. *У хаце сьцены і столь пабеліны мелам.* Канава Хоцім. *Хата ўжу пасьці гатова, толькі нада достык на столь ды на мост.* Арцёмаўка Міласл. *На столі мух пынасела, целый рой.* Машавая Бялынкав. *Наша столь вельмі чыста.* Шумячы. *У столь убіт крук, і на ім вісіць люлька.* Смолькаўская Буда Бялынкав.

СТОЛЬКІ, прысл. Столькі. *Столькі паселі лесу, цяпер нада ету повыль сабіраць.* Слаўнае Мсцісл. *Навошта табе столькі фарбы?* Ушакі Чэрык. *Каб ета ведыма було, што столькі гасьцей наедзіць, дык ба большы чаго ныгутувалі.* Арцёмаўка Міласл.

СТОЛЯР, -а, м. Сталяр. *Столяр зрабіў мне капыл.* Прыпечына Касцюк.

СТОМА, -ы, ж. Стамленне. *Па целі нейкыя стома: рабіць нічога ні магу і есьць ні хочыцца — зыбалеў я.* Хвёдараўка Краснап.

СТОПКА, -і, ж. 1. Высокая чарка [келіх]. *Выпі, дружа, стопку піва, я ўжо табе наліў.* Слаўнае Мсцісл. 2. Кадоўбчык. *Мой бацька сяньня выдаўбаў стопку з ліпы.* Вярбоўка Расньян.

СТОПЛІНЫЙ, прым. Выпалены [напалены]. *Печка стопліныя, у хаці цёпла, можна пасідзець троху.* Крывы Лес Росл.

СТОРАЖ, -а, м. Вартаўнік. *Калі ты стораж, дык ты павінен кыраўліць, а ня бегыць німаведыма дзе.* Старае Сяло Мсцісл.

СТОРЧ, прысл. Сторч, старчака. *Пылящеў з гары сторч гылавой.* Хвёдараўка Краснап.

СТОРЫЖ, -а, м. Вартаўнік. *У етый сад ні ўлезіш — тут сторыж і дзень і ноч караўліць.* Міцькаўшчына Мсцісл.

СТОУП, -а, м. Слуп. *Пыставілі нейкій стоўп сярод дарогі, што і праехаць нільга.* Машавая Бялынкав.

СТОУПЫМ, прысл. Слупам. *Ну чаго ты стаў стоўпым? Ідзі скарэй!* Парадзіна Мсцісл.

СТОУЧ, дзеясл. Стаўчы. *Проса ўсё вышла — нада стоўч троху. Прыпылай проса, што я стоўк.* Хвёдараўка Краснап.

СТОЧКІ, -чык, мн. л. Сточкі, сшытыя месцы. *У цябе каўнер ня целый коцік, а толькі сточкі з куской.* Слаўнае Мсцісл.

СТРАВА, -ы, ж. Страва, яда. *Страва сёньні нісмашныя, што есьць нільзя.* Ушакі Чэрык. *Маці наліла ў абедашнік стравы і накірувала ў поля ды бацькі.* Куляшоўка Клім.

СТРАВІЦЬ, дзеясл. Стравіць, скарміць. *Стравіў лог мне сваімі коньмі.* Хвёдараўка Краснап. *За зіму ўвесь авёс стравіў, і сеіць нечым.* Мацутаўка Расньян.

СТРАЖНІК, -а, м. Стражнік, паліцэйскі пры старым ладзе. *Стражнікі білі Міколу бізуном.* Вярбоўка Расньян.

СТРАКАЗА, -ы, ж. Страказа, конік. *Скачыць, як страказа ўсі ройна, мінуты спакойна ні пысядзіць.* Ушакі Чэрык.

СТРАЛЬНУЦЬ, дзеясл. [Стрэльнуць], стрэліць. *Стральнуў з ружжа, дык рэха пынеслося па лесі.* Пацкава Мсцісл.

СТРАМ, -у, м. Сорам. *Яму й страму німа піряд людзьмі.* Палуж Краснап.

СТРАМІЦЦА, дзеясл. Сарамаціцца. *Ні буду я етыга дзелаць, ні хачу страміцца піряд людзьмі.* Радзівонаўка Міласл.

СТРАМІЦЬ, дзеясл. Сарамаціць, бясчэсціць. *Ні страмі ты мой двор перад людзьмі.* Пірагова Мсцісл.

СТРАМНА, прысл. Сорамна. *Напіўся п'яный ды як пачаў лаяцца — слухаць страмна, ня то што.* Пірагова Мсцісл.

СТРАПЕЦ, -пца, м. Памылка, якая з'яўляецца вынікам неабдуманасці (і праз гэта чалавек пападае ў кепскі, бязвыходны стан). *Пыпалысь у страпец: купіла дроў ны бызары, а йны ні гыраць — сырэя.* Маластоўка Краснап.

СТРАПІЛЫ, -аў, мн. л. Кроквы. *Страпілы пыстаўлены крута, й крыша будзе крутая.* Варадзькава Крыч. *Падсобця пыставіць страпілы.* Брылёўка Краснап.

СТРАТА, -ы, ж. Страта. *Увёў мяне ў непатрэбную страту: пыраіў купіць партыбак.* Цірэні Расньян. *Ат етый гразі будзець вялікыя страта хыдзяіну.* Канічы Касцюк.

СТРАТКА, -і, ж. Страта, расход. *Ты надзелыў стратві зусім нітатрэбна. Ну нашто было купляць етыя ножыкі ды нажэнцы?* Забелышана Хоцім.

СТРАХ, -у, м. Страх. *Страх глянуць ны яго, так ён высах.* Баброва Расньян. *А ў майго кыня храпы аж рыздуваюцца ад страху.* Барысавічы Клім.

СТРАХА, -і, ж. Страха. *Ны страсе сядзіць сарока.* Роськаў Калінінішчына. *Страха на гумне ў цябе, кум, сусім старая — пара перакрыць.* Ганнаўка Клім.

СТРАХОУКА, -і, ж. Страхоўка. *На сходкі будуць гуварыць аб страхоўцы, нада схадзіць паслухаць.* Бяседавічы Хоцім.

СТРАЦІЦЦА, дзеясл. Страціцца, згубіцца. *Ны свадзьбі спычатку сядзелі зы сталом мірна, а як пыныпіліс, дык усякі*

*пырадык страціўся, пашлі хто куды — хто ў лес, а хто па дровы.* Слаўнае Мсцісл.

СТРА́ЦІЦЬ, *дзеясл.* Страціць, згубіць. *Яму, як хворыму, колькі ні лыгадзі, а калі раз ні пытрапіў, дык і ласку страціў. Цьвярозысьць розуму можна страціць ня толькі ў п'янстві.* Сохана Мсцісл.

СТРА́ШНА, *прысл.* Страшна. *Па етым масту страшна езьдзіць, ён жа рызлыманы ўвесь.* Галоўчыцы Калінінщчына. *Якій ты кышчавый, страшна глядзець ны цябе.* Маластоўка Краснап.

СТРА́ШНЫЙ, *прым.* Страшны. *Я быў у Менску ў зьвярынцы і бачыў там лева — ой, якей страшный ён, леў етый!* Прусіна Касцюк.

СТРАШЫ́ДЛА, -а, *м.* і *ж.* Страшыдла. *Во страшыдла нейкій: вочы па кулаку, нос гырбатый, сам вялікій — ідзець, рукі рыстапырыўшы.* Арцёмаўка Міласл.

СТРА́ШЫЦЬ, *дзеясл.* Страшыць. *Мама, Хвёдар мяне страшыць; кажыць, што воўк з кынапель вылізець.* Папоўшчына Мсцісл.

СТРАШЭ́ННЫЙ, *прым.* Страшэнны. *Учора ўвечыру дзед рыскызаў нам страшэнныя апывіданьня.* Старае Сяло Мсцісл.

СТРЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Спаткаць, сустрэць. *Каго першыга стреніш, дык запытай у яго, як яго зваць.* Прусіна Касцюк. *Скора бацька павінен быць з горыда, бягі ны дарогу, можыць, стреніш.* Пацкава Мсцісл.

СТРЕ́ЧНЫЙ, *прым.* Сустрэчны. *Мы тут задзіржаліся таму, што стречный поізд ідзець.* Цёмны Лес Раснян.

СТРЕ́ЧНЫЯ КУМЫ́. Кумы з першых выпадковых сустрэчных. *Тває дзеці паміраюць, дык як народзіцца ішчэ дзіця, вазьмі яму стречных кумоў; раніська ўстань і прыбяжы пы дзяреўні, каго первыга стреніш, таго і заві ў кумы.* Слаўнае Мсцісл.

СТРІГУ́Н, -а, *м.* Цырульнік. *Стрігун зыбалеў, і стріжня закріта.* Расна. [2. Жарабя].

СТРІ́ЕЧНЫЙ, *прым.* Стрыечны, дзядзькаў сын, дачка. *Ён мне стріечный брат — майго дзядзькі сын.* Цівецкая Краснап.

СТРІЖНЯ́, -і, *ж.* Галярня [цырульня]. *Стріжня ёсьць, ды стрігуна нет.* Дзянісавічы Навазыбк.

СТРІКА́ТЫЙ, *прым.* Пякучы. *Ой, і стрікатыя ж кряпіва — усі рукі апстрікаў.* Маластоўка Краснап.

СТРІКА́ТЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Пякучасць. *Ета крапіва біс стрікатысьці — глухая крапіва.* Восаў Краснап.

СТРІЛЯНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Стрэльнуць. *Дай мне раз стрілянуць з твайго пугыча.* Гарцуеўка Краснап.

СТРІПЯНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Страпянуць [страсянуць]. *Конь пыкычаўся, а тады як стріпянець скурыю, дык увесь сьнег і аблящеў.* Шыркі Раснян. *Пылящеў саколік, пылящеў, ‖ Толькі крыьлійкамі стріпянуў, ‖ Толькі дзюбычкый зысьвістаў.* З нар. песні, М. Г. 11.

СТРІХА́, -і, *ж.* Страха. *Стріха на гумне новыя, а ны хаце ўжо цякець у дождж.* Пухнава Раснян. *Кроквы былі пыстаўлены вісока, пытаму і стріха крутая.* Слаўнае Мсцісл.

СТРО́ГА, *прысл.* Асцярожна. *Лядзі ж, строга нясі; каб ні разьліў.* Хвёдараўка Краснап. *Строга йдзі цiряз кладку, штоб ні бʼшаснуўсь.* Палуж Краснап.

СТРО́ЙНА, *прысл.* Стройна. *Стройна йдзець етый конь.* Ушакі Чэрык.

СТРО́ЙНЫЙ, *прым.* Стройны, прыгожы, спрытны. *У цёткі быў вельмі стройны камлёт.* Глінь Касцюк.

СТРО́ІЦЦА, *дзеясл.* Будавацца. *Строіцца дом дзірівяный, а хундамінт — камінный.* Слаўнае Мсцісл.

СТРО́ІЦЬ, *дзеясл.* Будаваць. *Хвёдар двухтрысьценны дом хочыць строіць.* Маляцічы Крыч.

СТРОК, -у, *м.* Тэрмін. *Пазыч мне грошы рублёў с пыўсотні, атдам точна ў срок, калі скажыш.* Меліхава Смал.

СТРО́МКІЙ, *прым.* Стромкі, гонкі, высокі. *Нідалёка ад нас расьцець стромкі хвойны лес.* Лешчынка Мсцісл.

СТРО́ЧКА, -і, *ж.* Стужка. *Дзяўчына ўпляла ў касу строчку.* Дзяніскавічы Гомельшчына. *Ты носіш у касе красныю строчку, а я хачу зялёныю.* Іванаўка Хоцім.

СТРУГ, -а, *м.* Струг, скобля. *У бондыря струг так і ходзіць, як ён клёпкі цешыць.* Хвёдараўка Краснап. *Вазьмі струг ды пачысьці жэрдзя ат кары, ато пагніець за лета.* Арцёмаўка Міласл.

СТРУГА́ЛЬНЯ, -і, *ж.* Струг. *Дай мне, брат, свае стругальні, жэрдзя хачу пачысьціць.* Тур'я Чэрык.

СТРУГА́НІЦЬ, *дзеясл.* Стругаць. *Татка абручы струганя пыд павецьцю.* Хвёдараўка Краснап.

СТРУГА́ЦЬ, *дзеясл.* Стругаць. *Накліцкі нада стругаць.* Хвёдараўка Краснап.

СТРУГУ́Н, -а, *м.* Гадавалае жарабя. *Стругуна трэба вадзіць на повадў.* Бялішчына Мсцісл.

СТРУК, -а, *м.* Франт. *Струк еты прыбраўсь ды пашоў гулящь, а дзелаць нічога ня хочыць.* Маркаўка Хоцім.

СТРУНА́, -ы, *ж.* Струна. *Тоўстыя струна гучыць даўжэй за тонкыю.* Бяседавічы Хоцім. *Струны загудзелі, зазьвінелі.* Сохана Мсцісл.

СТРУПЕ́ХНУЦЬ, *дзеясл.* [Струхлець], згніць. *Нашто табе ета былатства, памреш — усё струпехніць.* Канічы Касцюк. *Бервяно струпехла.* Хвёдараўка Краснап.

СТРУХЛЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Струхлець. *Калі ні прыбраць етыя бервяно, дык яно тут струхлець можыць.* Канічы Хоцім.

СТРУХНЕ́ЛЫЙ, *прым.* [Струхлелы], гнілы. *Маток нітык як павесіла ны пляцень, дык весеў пасьці целыя лета; што ты думаіш, верна, ат дождж стаў струхнелый саўсім — ніткі, вазьмісь толькі, рвуцца.* Слаўнае Мсцісл.

СТРУХНЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Струхлець, згніць. *Трэба абчысаць бярвеньні, каб ня струхнелі за лета пыд карою.* Клімавічы.

СТРУША́НКА, -і, *ж.* Трасянка, салома, змешаная з сенам на корм. *Дай каровам струшанкі.* Крычаў. *Ідзі наскубі сена, сьсінь саломы-аўсянкі ды стрясі троху струшанкі скату.* Слаўнае Мсцісл.

СТРЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Стрываць, сцярпець. *І жарышча ж на печы, што няможна стрываць.* Лешчынка Мсцісл.

СТРЫГАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Сказаць грубасць рэзка. *Ну, ён і стрыгануў табе, больш ні захочыцца зь ім гываріць.* Крывы Лес Шумяц.

СТРЫГУ́Н, -а, *м.* 1. Цырульнік. *Схадзі да стрыгуна ды абгаліся, ато аброс, як воўк.* Хвёдараўка Краснап. 2. Жарабя [гадавалае]. *Стрыгун бегыя зы кабылай, нібыцым сысунок.* Мсціслаў.

СТРЫГУНО́К, -нка, *м.* Гадавалае жарабя. *Наш жырябок яшчэ стрыгунок, яму толькі другей год пашоў.* Слаўнае Мсцісл.

СТРЫ́ГЧЫ [стрыжч], *дзеясл.* Стрыгчы. *Цырульнік добра стрыгець.* Шумячы.

СТРЫЖ, -а, *м. заал.* Стрыж. *Стрыжы літаюць — дождж, верна, будзець.* Мсціслаў.

СТРЫ́ЖКА, -а, *м.* і *ж.* Астрыжаны чалавек. *Цяперіка і бабы стрыжкымі ходзюць.* Маластоўка Краснап.

СТРЫ́ЖЫНЬ, -я, *м.* 1. Стрыжань, сяродак дрэва, смольная частка ў сасновым дрэве. *Абалонь згніла, а стрыжынь зыстаўся, як жалеза, ані ні згніў.* Касцюшкавічы Крыч. *Прысьвярдлі стрыжынь у дзерыві.* Хвёдараўка Краснап. 2. Сяродак у скулцы. *Скулка прыйрвала, а стрыжынь шчэ ня вышаў.* Там жа. 3. Сярэдзіна ракі з больш хуткаю плынню. *Дзеці пераплылі стрыжынь.* Малюшын Краснап.

СТРЫКА́НЬНЯ, -я, *н.* Стрыканне, апяканне крапівай. *Ні люблю я крапівы зы яе стрыканьня.* Слаўнае Мсцісл.

СТРЫКА́ТА, *прысл.* Стракata. *Нешта ў вачу стрыката робіцца.* Паўлавічы Клім.

СТРЫКА́ТЫЙ, *прым.* Стракаты. *Матка тчэць кросны з нітак рознай пыкраскі, і ў яе пылатно выходзіць стрыката.* Сохана Мсцісл.

СТРЫКА́ТЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Стракатасць. *Стрыкатысьць ета аж вочы коліць: і жоўтыя, і зялёныя, і чорныя, і белыя — розных цьвятоў.* Забелышана Хоцім.

СТРЫКА́ЦЦА, *дзеясл.* Стрыкацца [пячыся]. *Крапіва стрыкаіцца.* Нізькі Касцюк. *Мама, Юзік крапівою стрыкаіцца.* Забелышана Хоцім.

СТРЫКА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Сустракаць. *Баба вышла ны дарогу стрыкаць свайго чылавека — з горыду павінін ехаць.* Палуж Краснап. 2. Стрыкаць, пячы (пра крапіву). *Ня лезьце ў сад, жэўжыкі, ато як пыймаю, дык крапівію стрыкаць буду.* Слаўнае Мсцісл.

СТРЫКЛІ́ВЫЙ, *прым.* Стрыклівы, пякучы. *Крапіва стрыклівa.* Палуж Краснап. *Глухая крапіва ня стрыклівa.* Нізькі Касцюк.

СТРЫ́КНЫЙ, *прым.* Стрыклівы [пякучы]. *Самыя стрыкная крапіва — з маленькімі лісьцікамі, а глухая крапіва, што расьцець на пустырах, дык іна саўсім ня стрыкна.* Пірагова Мсцісл.

СТРЫКУЛІ́СТ, -а, *м.* Зухаваты, жулікаваты хлопец. *Нейкі стрыкуліст прычапіўсь у горыдзі к дзеўцы.* Палуж Краснап.

СТРЫЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Страляць. *Купіўшы новыя ружжо, ён пычаў апрабоўваць яго, як яно стрыляіць, а тут ніўспадзеўкі сыбака выбег, дык ён і зыпаліў у яго.* Старае Сяло Мсцісл. *Аднавокі Рыгор, а добра стрыляіць.* Лешчынка Мсцісл.

СТРЫХА́, -і, *ж.* Страха. *Там на гумне стрыха зывалілась, нада заўтра ўзлезьць пыправіць.* Пірагова Мсцісл. *Ны хаце стрыха пыстарэла.* Шумячы.

СТРЫХЫТА́, -ы, *ж.* Страхота, страх. *Найшла туча цёмныя з бураю; ат буры, цемнаты і грому ныстала тыкая стрыхыта, што ўсё пыхывалась і заціхла.* Сохана Мсцісл.

СТРЭ́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Стрэліць. *Як стрэлілі з гырматы, дык аж зімля здрыганулысь.* Серчыцы Краснап. *Стрэліў я ў лісу і ні пупаў.* Ушакі Чэрык.

СТРЭ́ХА, -і, *ж.* Страха. *Салома дробнінькыя, чыстыя, дык і стрэха выходзіць роўныя, гладкыя.* Маляцічы Крыч. *Стрэху трэба перакрываць.* Маластоўка Краснап.

СТРЭЦЬ, *дзеясл.* Сустрэць. *К нам госьць сяньня прыедзіць — нада стрэць яго хырашэнька.* Баеўка Крыч.

СТРЭ́ЧА, -ы, *ж.* Спатканне [сустрэча]. *Стрэча з ім была дужа няпрыемная.* Лешчынка Мсцісл.

СТРЭ́ЧАНЬНЕ, -я, *н.* Грамніцы. *Сёньня сьвята стрэчаньне.* Крычаў.

СТРЮХЛЕ́ЛЫЙ, *прым.* Гнілы, спарахнелы. *Кыбат етый ужо ні пачыніш, ён саўсім стрюхлелый — за ніткый лезіць.* Боханы Росл.

СТРЯЛА́, -ы, *ж.* Страла. *Дзед зьдзелыў мне дужку і стрялу.* Шарэйкі Касцюк. *Ета грамовыя стряла, іна ў землю вайшла, як гром ударыў, а січас вышла наповірх.* Юркаўка Крыч.

СТРЯЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Стрэліць. *Ета ж ні акыянства? Хуць ты ў лоб стрялі, дык ён усё сваё.* Арцёмаўка Міласл. *Я стряліў у вароты, а пуля дыла адскок — і ў вакно.* Бяседавічы Хоцім.

СТРЯПІ́ЛЫ, -ыў, *мн. л.* Кроквы. *На йструб пыстаўлены ўжо стряпілы.* Машавая Бялынкав.

СТУДЗЁНА, *прысл.* Сцюдзёна, холадна. *Етыя два дні так студзёна, што бяда, ня вытрываць.* Стары Дзедзін Міласл. *Як сёньня студзёна.* Янаўка Мсцісл.

СТУДЗЁНЫЙ, *прым.* Халодны. *Сяньня надвор'я студзёна.* Крычаў. *Вецір сяньні надта студзёны, маскоўскій дуіць.* Маркаўка Хоцім.

СТУ́ДЗЕНЬ, -я, *м.* Студзіна [квашаніна]. *Студзень увесь паелі і мне ні пакінулі.* Людагошч Мсцісл.

СТУ́ДЗІН, -дня, *м.* Студня, калодзеж. *Наш студзін дужа глыбокій, трудна вады дыстаць.* Канічы Касцюк.

СТУ́ДЗІНЬ, -я, *м.* Студзіна [квашаніна]. *Студзінь вельмі смачны.* Вярбоўка Расвян. *Плахі ўдайся студзінь, і есьць яго нільзя.* Канічы Касцюк.

СТУДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Студзіць. *Ня еж жаркыга, а студзі, каб ні аппеч у році.* Слаўнае Мсцісл.

СТУ́ДНЯ, -і, *ж.* Студня, калодзеж. *Пышла баба зы вадой, а студня была далёка, дык чыста зьмерзла.* Ушакі Чэрык.

СТУ́ЖА, -ы, *ж.* Халадэча. *Сяньні тыкая стужа, што ногі дзірвянеюць.* Лешчынка Мсцісл.

СТУЖКА, -і, *ж.* Стужка. *Дзяўчына ўпляла ў касу стужку.* Беразякі Краснап. *А якая ў цябе прыгожая стужка ў касе!* Буліна Касцюк. *Зыпліла ў касу стужку і канцы яе зывізала ў бант.* Арцёмаўка Міласл.

СТУК, -а, *м.* Стук. *А што ета за стук там у сеніх, ці ня сьвіньні ўлезьлі? Пыглядзі.* Куляшоўка Клім.

СТУК, *выкл.* Стук. *Зьдзелыла я сабе нарожнікі з лёну, надзела чапец і стала хвустку зывязываць, аж нехта стук у вакно.* Арцёмаўка Міласл.

СТУКАЛКА, -і, *ж.* Гульня ў карты. *Цельный вечыр хлопцы гуляюць у стукалку.* Шарэйкі Касцюк.

СТУКНУЦЦА, *дзеясл.* Стукнуцца, выцяцца. *Дзіцёнык стукнуўся гылавой аб брыж стыла.* Маластоўка Краснап. *Ніжы сыгінайсь, ато гылавой стукнісься ў прытылку.* Бяседавічы Хоцім.

СТУКНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Стукнуць. *Мам, ты чуеш? Нешта ў сенцах стукнула.* Гібалы Касцюк. *Стукнулі вазочкі ны дваре, || Пыглядзі, мамычка, ці ні пы мяне?* З вясельнай песні. Слаўнае Мсцісл. 2. Выцяць. *Ныйшла нейкыя дурысьць, ну й стукнуў яе.* Парадзіна Мсцісл.

СТУКЫЦЬ, *дзеясл.* Стукаць. *Пірістань ты стукыць, ато ў вушах зьвініць.* Гусарка Клім.

СТУЛІК, -а, *м.* Столачак [табурэтка]. *А йдзе ета дзіцячый стулік пыдзіваўся?* Слаўнае Мсцісл.

СТУЛІХ, *прысл.* Адтуль. *Ягор быў ны вайне, стуліх і жонку прывёз.* Нова-Ельня Краснап.

СТУЛЬ, *прысл.* Адтуль. *Ахрэм жонку ўзяў стуль, з Палужжа.* Маластоўка Краснап.

СТУЛЬЧЫК, -а, *м.* [Стул], крэсла [і табурэт]. *Садзісь, Янка, на стульчык.* Новыя Капачы Мсцісл.

СТУПА, -ы, *ж.* Ступа. *Маці таўкла ў ступе проса.* Ганнаўка Клім.

СТУПІЦА, -ы, *ж.* Ступіца, калодка ў калясе, у якую забіты спіцы. *У етым катку бярозывыя ступіца.* Ташна Клім. *Калі крепка ступіца, дык крепык і каток.* Бяседавічы Хоцім. *Ні мог ты етыя каўдобіны аб'ехыць, пы самыя ступіцы каткі ўвагнаў у гразь.* Касцюковічы.

СТУПІЦЦА, *дзеясл.* Затупіцца. *Лёска ў рубанку ступілась.* Брылёўка Краснап.

СТУПІЦЬ, *дзеясл.* 1. Ступіць, стаць нагою. *Ішоў чырiз балота, ступіў на купіну ды абшаснуўсь у ваду.* Слаўнае Мсцісл. 2. Затупіць. *Што дзелыіш, ты ж увесь тапор ступіў аб етую калоду — на ёй жа пяску сколькі!* Цірэні Расням.

СТУПНІЦА, -ы, *ж.* Ступіца. *Разьезьдзілісь у кытках ступніцы.* Касцюшкавічы Крыч.

СТУПНЯ, -і, *ж.* Ступня. *У мяне дужа вялікыя ступня, ні адзін баціньк у мыгазіні ня лезіць, нада зыказывыць.* Слаўнае Мсцісл.

СТУПОЮ, *прысл.* Ступою, ціхім ходам. *Усю дарогу мы ехалі ступою.* Куляшоўка Клім.

СТУСУВАЦЬ, *дзеясл.* Стасаваць. *Стусуваў калоду карт і пычаў здываць.* Парадзіна Мсцісл.

СТУЧЭЦЬ, *дзеясл.* Стукаць. *Толькі вочы зьвеў, аж раптым нехта стучыць у вароты.* Палуж Краснап. *Ня стук стучыць ды па сенічкых, || Ня грюк грючыць ды па нувіньківх.* З нар. песні, М. Г. 1.

СТЫГНАНЬНЯ, -я, *н.* Стагнанне. *Ні так ужо й баліць, а стыгнаньня не абярэсься.* Парадзіна Мсцісл.

СТЫГНАЦЬ, *дзеясл.* Стагнаць. *Я хоць і хворый бываю, но ні люблю стыгнаць, цярплю с усіе сілы.* Слаўнае Мсцісл.

СТЫД, -у, *м.* Сорам. *Калі б ета ны мяне, дык я ж ба згарела б ад стыду, а іна хуць ба што.* Арцёмаўка Міласл.

СТЫДЗІЦЦА, *дзеясл.* Сароміцца. *Дзяўчына стыдзіцца есьць пры чужых людзёх.* Стары Дзедзін Міласл.

СТЫДНА, *прысл.* Сорамна. *Даў ён мне тулуп — увесь аблапліный, аж стыдна надзець.* Пірагова Мсцісл.

СТЫЙМА, *прысл.* Стаймя. *Перьвый сноп пыстаў стыйма, а пысьля ўкруг яго стаў восім, а дзісятым накріваць.* Маластоўка Краснап.

СТЫК, -а, *м.* Стык. *Ластыўка зьвіла гняздо на стыку ключоў, на самым вільчыку.* Дуброўна Аршаншчына.

СТЫКАН, -а, *м.* Лямпавае шкло. *Сістра купіла стыкан ны лампу.* Крычаў. *Толькі зыпаліла лямпу, так стыкан і лопнуў.* Смолькаўская Буда Бялынкав.

СТЫКІ, -аў, *мн. л.* Спрэчкі. *Мы гулялі ў п'яніцу і ў нас былі стыкі тры разы.* Горкі Краснап.

СТЫКНУЦЦА, *дзеясл.* Стыкнуцца, узняць спрэчку. *У першы раз мы зь ім стыкнуліся, калі дзялілі зямлю.* Пірагова Мсцісл. *Брат з братым стыкнуліся.* Палуж Краснап.

СТЫКЫТАЦЬ, *дзеясл.* Стукаць, стукацець. *Як пычаў стыкытаць у дзьверы, дык мусілі адчыніць.* Палуж Краснап.

СТЫНАВІЦЦА, *дзеясл.* Станавіцца. *Паручыкам за сына стынавіўся бацька, дык ці суд яму паверыць?* Слаўнае Мсцісл.

СТЫНАВІЦЬ, *дзеясл.* Ставіць. *Нашто табе было стынавіць чашку ны край стыла, каб разьбілысь?* Слаўнае Мсцісл. *Стынаві дзежку на крэсла.* Хвёдараўка Краснап.

СТЫНУЦЬ, *дзеясл.* Стынуць, стыць, прастываць. *Калі гыряча, пыстаў ны вакно, ніхай стыніць.* Гібалы Касцюк.

СТЫРАЖЫЦЬ, *дзеясл.* Вартаваць. *Стыражыў сад, ды ні ўстыражыў — абырвалі жэўжыкі.* Хвёдараўка Краснап.

СТЫРАЦЦА, *дзеясл.* Старацца. *Ён ня вот-та стыраіцца.* Арцёмаўка Міласл. *Стырайся, хлопча, стырайся, штоб к вечыру скончыў усю работу.* Вародзькава Мсцісл.

СТЫРІНА, -ы, *ж.* Старына, даўно мінулае. *У старіну, кызалі, такія лясы былі, што пальца ні праткнеш.* Слаўнае Мсцісл.

СТЫРІНЯ, -і, *ж.* Старына, даўно мінулае. *Нашыму дзеду ўсе стыріня ўспамінаіцца, а січасныга ён і знаць ні хочыць.* Хвёдараўка Краснап.

СТЫРЫНА, -ы, *ж.* Бок, старана (у гумне). *На ету стырану можна пылажыць пяцьдзесят вазоў снапоў.* Бяседавічы Хоцім. *Ету зямлю яны хочуць сабе атсудзіць, і правы на іх стыране.* Арцёмаўка Міласл.

СТЫЦЬ, *дзеясл.* Стыць, стынуць. *Дзе ты прыпыдаеш? Бульба зварілась і стыць пачынаець, а цябе німа.* Парадзіна Мсцісл.

СТЫЦЬЦЯ́, -і, *ж.* Артыкул. *Судзьдзя скызаў, што стацьці такой нет, штоб судзіць за ета.* Краснаполле.

СТЫЯКО́М, *прысл.* Стаймя, стоячы. *Куль стыяком стаіць.* Палуж Краснап. *Я прыстыяла стыяком у вочырідзі целый дзень.* Слаўнае Мсцісл.

СТЫЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Стаяць. *Ны мяжы стыяў стоўп цілеграфный.* Парадзіна Мсцісл. *Тут кыляк стыяў, і ўжо нехта выцігнуў.* Брылёўка Краснап. *Падпрежыныя кілбыса стыяла ны скывradзе і чыкала гасьцей.* Арцёмаўка Міласл.

СУБО́ТА, -ы, *ж.* Субота. *У суботу кынчаім усю работу.* Нізькі Касцюк. *Дай мне напавер, а ў суботу грошы аддам.* Хвёдараўка Краснап.

СУБО́ТУХНА, -ы, *ж.* Субота. *Суботухна нядзелюхні гадзіла, ‖ Сыбралыся Мыланкіна радзіма.* З нар. песні, М. Г. 13.

СУВА́ЛКА, -і, *ж.* Кіёк, палена. *Вазьмі йкую-небудзь сувалку ды пасунь.* Хвёдараўка Краснап.

СУ́ВАЛКА, -і, *ж.* Рэшткі валакна пасьля трапання льну, канапель. *Каноплі сёліта някрепкія: многа сувалкі астаецца.* Юркаўка Крыч.

СУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Совацъ, пхаць. *Прыходзіцца табе сілую ў рот, маё ты дзетачка, суваць яду.* Канічы Хоцім.

СУВЕ́РТЫК, -тка, *м.* Скрутак, скручаны цэлы ліпавы лут. *Паспрабуй сувертык зьняць.* Хвёдараўка Краснап.

СУВО́Й, сувоя, *м.* 1. Навой з намотаным на яго палатном. *Етый сувой крепкій, можна кросны тужэй ныцянуць.* Бяседавічы Хоцім. 2. Адна скручаная пасма вяроўкі. *Зьві-ка ты мне з пянькі сувой падплесьць лапці.* Слаўнае Мсцісл. *У маім хамуце сувой крепкій, ряменный.* Ташна Клім.

СУВО́ЙЯ, -я, *н. зборн.* Усё, што adносіцца да красён, усе прылады [ткацкае начынне]. *Нада ўсё ета сувойя вынесьць з хаты.* Брылёўка Краснап.

СУ́ВЫЛКА, -і, *ж.* Блытанае валакно. *Пянькі зусім мала — адна сувылка.* Парадзіна Мсцісл.

СУГА́К, -а, *м.* 1. Касцяное або драўлянае шыла з плоскім вастрыём для падплятання лапцей. *Вазьмі сугак ды пляці-тка лапці.* Хвёдараўка Краснап. *Етым сугаком нялоўка плесьць.* Барысавічы Клім. 2. Роўная тонкая палачка, якая прасоўваецца ў вушкі асновы лапцей з аднаго і другога боку. *Дай сугакі, буду плесьці лапці.* Бялішчына Мсцісл. *Надзень лапаць на сугакі, ато ні прадзеніш у вушкі.* Бяседавічы Хоцім. *Ды й высах жа ты, Іван, як сугак той стаў.* Дубеец Касцюк.

СУ́ГЛІДЫ, -аў, *мн. л.* [Розгляды, агледзіны, традыцыйны] передвясельны абрад, калі малады [або яго радня] едуць да маладое «глядзець» [або наадварот]. *Ужо паехаў жаніх у сугліды.* Залесавічы Крыч. *Моладзь сыбралась на сугліды.* Ганнаўка Клім.

СУГЛО́Б, -а, *м.* Гарбаты чалавек. *Сымону злымалі сьпіну, дык ён з тэй пары суглобым зьдзелыўся.* Барысавічы Клім.

СУГЛО́БІНА, -ы, *ж.* Высокі сагнуты чалавек. *Во йшцэ нейкыя суглобіна, сагнуўся, як дуга.* Хвёдараўка Краснап.

СУ́ГЛЯДКІ, -дак, *мн. л.* Сугляды. *Сваты паехылі ў сугляднкі.* Палуж Краснап.

СУ́ГЛЯДЫ, -оў, *мн. л.* [Традыцыйны] передвясельны абрад паездкі жаніха або бацькоў знаёміцца з нявестай і гаспадаркай яе бацькоў [або наадварот]. *Глядзі, будзець свадзьба ў суседа: сяньня ўжо матка яе із братым у сугляды паехылі.* Пірагова Мсцісл. *Матка мыладое ды жаніха ў сугляды паехыла.* Барысавічы Клім.

СУГРО́Б, -а, *м.* Гурба снегу. *Сяньні зá ныч такей сугроб навеіла пыд вароты, што прішлось два часы аткідываць сьнег лупатыю.* Бяседавічы Хоцім. *Ны дваре тыкая вея, сугробы, дык ня вылізіш.* Слаўнае Мсцісл.

СУД, -а, *м.* Суд. *Яны за глупства аддадзены пад суд.* Лешчынка Мсцісл. *Баба ны судзе ўліцкывала злодзія.* Палуж Краснап.

СУ́ДЖЫНЫЙ, *прым.* Суджаны. *Ці думаў ты сабе такую жонку ўзяць? Наверна, судзьбой іна табе суджыныя.* Слаўнае Мсцісл.

СУДЗІ́НА, -ы, *ж.* 1. Пасудзіна. *Дай судзіну — прынясу мёду.* Палуж Краснап. 2. Кадушка, куды ссыпаюць зерне. *Сёліта мала ымалацілі аўса — усяго толькі адну судзіну.* Дзяніскавічы Навазыбк.

СУДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Судзіцца. *За еты кусок зямлі гады тры ці мо' больш судзіліся з паным.* Арцёмаўка Міласл.

СУДЗЬБА́, -ы, *ж.* Лёс, доля. *Судзьба іго тыкая — злажыць гылаву на чужыне.* Нізькі Касцюк.

СУ́ДНІК, -а, *м.* Суднік, шафа для кухоннае пасуды. *Пыстаў у суднік памытый посуд.* Слаўнае Мсцісл. *Міска стаіць у судніку, а варіва ў печы — дыстань ды нылівай, калі хочыш есці.* Брадок Крыч. *Пыстаў мылако ў суднік.* Вярбоўка Раснян. *Дыстань збанок з судніка ды прыцадзі ў яго мылако.* Усполле Раснян.

СУДНО́, -а, *н.* Пасудзіна. *Дай мне якоянібудзь судно ваду выліць, ато вядро цякець.* Арцёмаўка Міласл.

СУ́ДНЯ, -і, *ж.* Скрыня для прадуктаў. *Пастаўця ў судню пыстыялку.* Смолькаўская Буда Бялынкав. *У судні ляжыць кыўбыса і яйцы, прынясі, дык я сьпяку яешню з кыўбасою.* Зоры Чэрык. *Мылако стаіць у судні.* Канава Хоцім.

СУ́ДЫ, -оў, *мн. л.* Два вядры. *Двоя судоў вады прынісла.* Хвёдараўка Краснап. *Я пыпрасіў яе прынесьць суды вады, і яна да слова паслухала.* Пірагова Мсцісл.

СУ́ДЫРГА, -і, *ж.* Сутарга. *Судырга зьвіла мне нагу.* Хвёдараўка Краснап.

СУ́ЗДЫЛЬ, -я, *м.* Сухі, танклявы чалавек. *Пыдажджы, суздыль, пупадзець табе.* Брылёўка Краснап.

СУКАЛА, -а, *н.* Прылада сукаць цэўкі. *Дыстань сукала і нысучы мне штук пяць цэвык, ато ткаць ўжо нечым.* Бяседавічы Хоцім. *У сукалі рыскалолысь кацёлка.* Хвёдараўка Краснап. *Кася, бяры сукала і сучы зараз жа цэўкі.* Гусарка Клім.

СУКАЛЕНЦА, -а, *н.* Сустаў. *Пы адно сукаленца палец атрезылі.* Брылёўка Краснап.

СУКАЦЬ, *дзеясл.* Сукаць. *Дзе йта Маня падзелася? Нада сукаць цэўкі, а яна недзе пабегла.* Дуброўна. *Я нікуды ні пайду — мама кажыць цэўкі сукаць.* Пацкава Мсціcл.

СУКЕНКА, -і, *ж.* Сукенка. *У цябе, Марыля, мусіць, новыя сукенка — я ны табе яшчэ ні бачыла такой.* Бродкі Крыч. *Дзяўчына пашыла сабе сукенку з фальбонамі.* Рачкавічы Слуцк.

СУКНО, -а, *н.* Сукно. *Ета сукно нігыдзяшчыя, іно хужы за мульт.* Паўлавічы Клім. *Надзела жупан з белыга сукна, са зборкымі ны баках.* Зоры Крыч.

СУКОНКА, -і, *ж.* Ануча з сукна. *Набуў суконку, дык цёпла стала.* Бяліпічына Мсціcл. *Дзед абуў суконкі.* Машавая Бялынкав.

СУКОННЫЙ, *прым.* Суконны. *Баба выткыла сабе суконны андырак і пашыла ў пяць пол.* Слаўнае Мсціcл. *Суконныя, сымытканыя спадніца, або андрак, як у нас называюць.* Касцюшкавічы Крыч.

СУКОНЬНІКІ, -аў, *мн. л.* Штаны, пашытыя з сукна. *Нада пашыць новыя суконьнікі на зіму, каб было цяплей.* Новыя Капачы Мсціcл. *Зімою трэба надзіваць суконьнікі.* Хвёдараўка Краснап.

СУКЫВАТЫЙ, *прым.* Сукаваты. *Нашто табе такій сукыватый кій? Яго ж і насіць цяжка.* Пірагова Мсціcл.

СУКЫРАК, -рка, *м.* Сукрутак, завіток, кучаравінка. *Война ны быранчыку пукруцілыся ў сукыркі.* Хвёдараўка Краснап.

СУЛДЫЖКА, -і, *ж.* Костка, масол. *Укінула ў гаршчок адну сулдыжку, а нывару поўна.* Брылёўка Краснап.

СУЛІЯ, -і, *ж.* Суляя, вялікая бутэлька. *Ны вакне стаіць сулія зь ягыдымі.* Шумячы.

СУЛУЙКА, -і, *ж.* Сувалка, паблытаныя плоскуні ў канаплях. *Сулуйкі многа тарчыць у кынапле.* Хвёдараўка Краснап.

СУМАБРОД, -а, *м.* Сумазброд. *Етый сумаброд куды надумыйся, туды йдзець, і ніхто яго ні затрымаець.* Хвёдараўка Краснап.

СУМЕСНА, *прысл.* Сумесна, супольна, разам. *Я сумесна з ім купіў сем хунтыў яблык.* Добрае Мсціcл. *Кум Ягор, дывай мы сумесна купім цялушку ны мяса?* Нізькі Касцюк.

СУМЁТ, -а, *м.* Гурба снегу. *Нымяло цельыя сумёты сьнегу, вылізьць з хаты нільзя.* Слаўнае Мсціcл. *Ны дваре мяцеліца сумёты наміла, нільзя з хаты выйціць.* Дубеец Касцюк.

СУМІЦЬ, -і, *ж.* Мяцеліца, завея. *Ужо каторы дзень суміць дмець і дмець зьверху, ні скызаў бы зіма.* Слаўнае Мсціcл.

СУМКА, -і, *ж.* Торбачка [сумка]. *Матка пашыла мне з пылытна сумку на кніжкі.* Гібалы Касцюк.

СУМЛЕННА, *прысл.* Сумленна. *Чылавек сумленна ўсё зьдзелыў, ні нада яго біжаць — заплаціць па дыгавору.* Цівецкая Краснап.

СУМЛЕНЬНЯ, -я, *н.* Сумненне, падазронасць. *Сумленьня ны мяне найшло: чаму, падумаў я, чылавек ня йдзе дарогыю, як усе ходзяць, а хуваіцца па кустах.* Боханы Росл.

СУМЛІВАЦЦА, *дзеясл.* Сумнявацца. *Ня сумлівайцеся, як скызаў, так і зраблю.* Дубровіцы Краснап. *Ён сумліваіцца — баіцца, каб ня вышла чаго.* Радзівонаўка Мсціcл.

СУМНА, *прысл.* Сумна. *Мне нешта вельмі сумна стала.* Нізькі Касцюк. *Ты прыдзі, ато мне адной сумна будзець сядзець.* Брадок Крыч.

СУМНІВАЦЦА, *дзеясл.* Сумнявацца. *Ня сумнівайся, купляй — і дзёшыва, і быгата.* Слаўнае Мсціcл.

СУМУВАР, -а, *м.* Самавар. *Пыстаў, жына, сумувар — чай будзем піць.* Нізькі Касцюк.

СУМУЛУК, -а, *м.* Сагнутая дубовая палка, якая з трох бакоў абдымае барану і за якую прывязваецца ворчык. *Добра ўдалось сумулук сагнуць, крэпкыя бырына будзіць.* Брылёўка Краснап.

СУМУРДАК, -а, *м.* Хвароба ў роце, пры якой баляць сківіцы. *У мяне ў санкых сумурдак, дык есьць нільга.* Хвёдараўка Краснап.

СУМЫВАР, -а, *м.* Самавар. *Налі ў сумывар вады, а тады ўжо вугольля кідай, ато трубу рыспражэш.* Барысавічы Клім.

СУМЫСЬЛЯ, *прысл.* Наўмысна, назнарок. *Ён сумысьля пыдставіў нагу, штоп я спытыкнуўся.* Арцёмаўка Міласл.

СУНДУК, -а, *м.* Куфэрак, скрынка з векам для адзежы. *Нашто ты пыставіла рэшыта з мякінай на сундук?* Куркаўшчына Мсціcл. *Якая добрая зьдзелка ў етым сундуку.* Хвёдараўка Краснап.

СУНІЦА, -ы, *ж. бат.* Суніца. *Калі суніца красна — ня сей аўса ныпрасна.* Людагошч Мсціcл. *Вунь суніца чырвоныя сядзіць, а вунь другая, трэцяя — шмат іх тут.* Нізькі Касцюк. *Што сёлета суніц у лесе, толькі яшчэ зялёныя!* Пірагова Мсціcл. *Суніцы пысьпіваюць раней за ўсіх ягыд.* Гібалы Касцюк. *Хлопцы, пойдзем у суніцы.* Лютня Краснап.

СУНІЧНЫЙ, *прым.* Сунічны. *Зыкрасілі гарэлку сунічным сокам.* Белы Камень Бялынкав. *Сунічны ліст сушуць, а тады п'юць, як чай.* Азерцы Клім.

СУНОЖКА, -і, *ж.* 1. Драўляны брусок, якім звязваюцца ножкі стала ўнізе. *Максім зламіў суножку ў стале.* Вярба Раснян. *Пыстаў ногі на суножку.* Гібалы Касцюк. *Ні злымайця ў стале суножкі, ато ўсі нывалілібся ныгамі.* Глупікі Крыч. 2. Ножка. *Адна суножка ў стыла кырачэй, дык ён шытаіцца, нада пыд яе што-нібудзь пыдкласьць.* Арцёмаўка Міласл. *Стол стаіць на чатырох суножках.* Іванаўка Хоцім.

СУНОЖНІК, -а, *м.* Суножка. *Стол біс суножнікаў, дык ножкі шытаюцца.* Горкі Краснап.

СУ́НУЦЦА, *дзеясл.* Упасці. *Як даў яму камінім у лоб, дык той і сунуўся на зямлю.* Лешчынка Мсцісл. *Ударылі чылавека ны гылаве, дык тэй і сунуўся.* Маластоўка Краснап.

СУНЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Суняцца, супакоіцца. *Крычыць дзіцёнык і ня можа суняцца.* Палуж Краснап.

СУП, -а, *м.* Крупнік, крупеня. *Сяньні мы варылі суп з ячных круп.* Усполле Расиян.

СУ́ПЛІЧ, *прысл.* Поплеч, пляч о ў пляч о. *Міхалка супліч са мною, ікраз такога росту.* Палуж Краснап.

СУПО́ЛЬНА, *прысл.* Супольна, сумесна. *Мы з Хведырым супольна купілі бырына ны мяса.* Забялышана Хоцім. *Супольна з братым пасеілі гарох.* Глупікі Крыч.

СУПО́ЛЬНЫЙ, *прым.* Супольны, сумесны. *Ён мне даў, а пысьля я яму, вось і вышла супольныя дыпамога.* Пірагова Мсцісл. *Ета наш супольны луг: разым косім, а тады ўжо сена дзелім паміжсобку.* Бродкі Крыч.

СУПО́НЬ, -і, *ж.* Супоня, раменны або вяроўчаны шнур, якім сцягваюць клешчы ў хамуце, як запрагаюць каня. *Пырвалысь супонь, астынаві кыня, ато хамут парвець.* Бяседавічы Хоцім. *У твайго кыня разьвізалысь супонь, зывяжы, ато хамут парвеца.* Варанёва Крыч.

СУПО́НЯ, -і, *ж.* Супоня. *Супоня разыйшлась, нада засупоніць.* Хвёдараўка Краснап. *Янка, зьві новую супоню, бо старыя пырвалыся.* Ташна Клім. *Супоня рассупонілась!* Бязводзічы Мсцісл.

СУПО́ЎНІНЫЙ, *прым.* Выкананы. *Супоўніны хорам сьпеў усім спыдыбаўся.* Сохана Мсцісл.

СУПО́ЎНІЦЦА, *дзеясл.* [Споўніцца], стацца, адбыцца. *Супоўнілыся тоя, чаго я жылаў.* Сохана Мсцісл.

СУ́ПРАДКІ, -аў, *мн. л.* Супрадкі, сходка дзяўчат увечары для сумеснай пражы. *Ганна і Наста пайшлі ў супрадкі к Надзеі.* Пацкава Мсцісл. *Пайдзём-ка сёньня ў супрадкі к Тацяне.* Новыя Капачы Мсцісл.

СУ́ПРІТКІ, -аў, *мн. л.* Супрадкі. *Етыя дзеўкі ходзюць у супріткі к Храсіньні.* Во ўжу дзьве нядзелі, як яны ўсё там прядуць. Арцёмаўка Міласл.

СУ́ПРІЦЬ, *прысл.* Супраць. *Зьдзелый супріць печы пыд вакном паліцу, і ны яе пыставілі гаршкі.* Арцёмаўка Міласл.

СУПРІЧА́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Спрачацца. *Яны сталі супрічацца зы цану.* Палуж Краснап. 2. Супярэчыць. *Ён любіць супрічацца: ты скажы белыя, а ён табе — не, чорныя.* Восаў Краснап.

СУПУ́ДУ, *прысл.* З перапуду. *Супуду я ня ведаў, куды бегчы.* Вярбоўка Расиян.

СУПУРА́Т, -а, *м.* Упарты чалавек. *Разьві ты пірапреш еткыга супурата, ён што хочыць, то і дзелыіць.* Слаўнае Мсцісл. *Супурат ты: нікога слухаць ня хочыш.* Гібалы Касцюк.

СУПУСТА́Т, -а, *м.* 1. Упарты чалавек, які робіць усё наперакор. *Ці ты ня ведыіш етыга супустата? Ніколі ж ён ня зьдзелыя так, як скажыш.* Хвёдараўка Краснап. [2. Варожы воін].

СУПЫДА́НЬНЯ, -я, *н.* Супадзенне. *Не, ета ён зьдзелыў нінарокым, ні таму, што ты ні быў там — ета проста супыданьня такоя.* Мануйлы Краснап.

СУ́ПЫЛНА, *прысл.* Супольна. *Яны ўзяліcь супылна ўсёю дзярэўнюю пірявесьць дровы.* Арцёмаўка Міласл.

СУ́ПЫРЬ, *прысл.* Супар [супроць]. *Перьвый раз ён пайшоў мне на супырь, і ні магу пыняць, што зь ім стала.* Б. Хутары Краснап.

СУПЫРА́Т, -а, *м.* Упарты чалавек, які робіць усё наперакор. *Такога супырата, як наш Рыгор, нідзе німа: што ты яму ні кажы, дык ён табе ўсё напіракор зьдзелыіць.* Палуж Краснап.

СУПЫСТА́ВА, -ы, *ж.* Супастава [супастаўленне]. *Супыстава к етыму ні пыдайдзець.* Малюшын Краснап.

СУПЫСТА́ВІЦЬ, *дзеясл.* Супаставіць. *Што ты можаш яму супыставіць, калі ён праўду режыць.* Палуж Краснап.

СУПЯРЭ́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Супярэчыць. *Ты ўсягды любіш супярэчыць.* Гібалы Касцюк. *Нам ніхто ні супярэчыў, калі мы скызалі, штоб так зьдзелыць.* Пацкава Мсцісл.

СУР, -а, *м.* Смецце. *Іна пыдміла хату і вынісла сур на ворык.* Арцёмаўка Міласл.

СУРА́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Сабраць [падрыхтаваць для паездкі]. *Яны сурадзілі мяне ў дарогу.* Палуж Краснап.

СУРАНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Упасці чаму-небудзь дробнаму. *Па лесі ходзіш, дык і суранецца ў ягыды што-небудзь.* Б. Хутары Краснап.

СУРБА́ЙЛА, -а, *м.* Сярбайла. *Сурбайла етый, як пачнець сёрбыць, дык сьвіньні пызьбягуцца.* Хвёдараўка Краснап.

СУРГА́Н, -а, *м.* Неспакойны хлопец. *Етыга сургына нічым ня ўцішыш.* Хвёдараўка Краснап.

СУР'Ё́ЗНА, *прысл.* [Сур'ёзна], стала, рашуча, цвёрда. *Ён сур'ёзна зыняўсь лісаводзтвам: садзіць лес, зыпрішчаіць у лесі пасьцівіць скот.* Бяседавічы Хоцім.

СУРІДЖА́ЦЬ, *дзеясл.* Ладзіць [збіраць, рыхтаваць]. *Суріджайця, хлопцы, ружжы, пойдзім ны ахоту.* Большая Багацькаўка Мсцісл.

СУРО́ВЫЙ, *прым.* Суравы, нябелены. *Рушнік з суровыга пылытна.* Хвёдараўка Краснап. *Дужа суровыя пылатно, ды хуць ба троху яго прыбялілі.* Нізькі Касцюк.

СУРО́ЦЫ, -аў, *мн. л.* Урокі. *Мабыць у майго Васіля суроцы: ляжыць у пасьцелі: гылыва як у вагні.* Юр'евічы Калінінішчына.

СУРЧО́К, -чка, *м.* Свісток. *Сьвіснуў у сурчок, дык аж коні пупужалісь.* Хвёдараўка Краснап.

СУРЫ́НКА, -і *ж.* Дробная частка чаго-небудзь [парушынка]. *Сурынка ў воку сядзіць.* Хвёдараўка Краснап. *Дыстань мне з вока сурынку.* Забелышана Хоцім.

СУСЁ́Д, -а, *м.* Сусед. *Сусед мой быгацей зы мяне: у яго хыдзяйства лепшыя.* Асмолавічы Мсцісл. *У майго суседа двое коні, чаму ты яму ні кажыш у падводу ехаць?* Канічы Касцюк. *Суседзі быяцца і зычапіць Нупрэя, ведыюць, якей ён рызьбівака.* Маластоўка Краснап. *Мы ж зь ім суседзі — хата з хатый побыч.* Бродкі Крыч.

СУСЕ́ДКА, -і, *ж.* Суседка. *У суседкі ў хаці такей вэрлых, што ні ўвайсьці: усё пыраськідына, пыразбурына.* Лешчынка Мсцісл.

СУСІ́М, *прысл.* Саўсім, зусім. *Я сусім ні вінывата ў етым дзелі.* Слаўнае Мсцісл. *Калі ты сусім нічога ні знаіш аб етым, дык і маўчы.* Арцёмаўка Міласл.

СУСО́ЛКА, -і, *ж.* 1. Сусолка, сусла. *Матка дыла дзіцёнку сусолку: пыжывала хлеб з сахырым, зывярнула ў лахмотку і сунула ў рот.* Арцёмаўка Міласл. *Дай дзіцёнку сусолку, ніхай ні крычыць.* Гібалы Касцюк. 2. Лядзяш, лядзянка на застрэшку. *З крышы вісяць сусолкі.* Хвёдараўка Краснап. *Сяньні ны страсе быгата сусолык.* Дубеец Касцюк.

СУСТО́ІЦЦА, *дзеясл.* Адстаяцца. *Выда мутныя, трэба каб іна сустоілысь.* Палуж Краснап.

СУСТРЭ́ЦЦА, *дзеясл.* Сустрэцца, спаткацца. *З ёй ня толька жыць — сустрэцца нільга.* Радзівонаўка Мсцісл. *З етым чылавекам страшна сустрецца ноччу ны дарозі.* Гарадзец Бабр. *Дывай мы ўмовімся, айдзе б нам заўтрі сустрэцца.* Іванаўка Хоцім.

СУСТРЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Сустрэць, спаткаць. *Мы іх сустрэлі длі таго старога інбару, што ны быльшаку стаіць.* Пірагова Мсцісл. *Сустрэў сваіх знакомцыў.* Сохапа Мсцісл.

СУСТРЭ́ЧА, -ы, *ж.* Сустрэча, спатканне. *Нічыканыя сустрэча: сустрэў свайго прыяцеля — разым ны вайне былі.* Нізькі Касцюк.

СУСТРЭ́ЧЫНЫЙ, *прым.* Спатканы. *Някей ён ні туваріш, ён толькі сустречыный ны дарогі, з якім я ішоў ды Мыластоўкі, а хто ён — я ні знаю.* Палуж Краснап.

СУСУНО́К, -нка, *м.* Сысунок. *Яны, етыя цыляты, як былі яшчэ сусункі, яшчэ пыд маткыю хадзілі, дык ужу важылі кыла двух пудоў.* Арцёмаўка Міласл.

СУ́ТАРМА, -ы, *ж.* Нелады, непарадак. *У іх як пычалася сутарма, дык вось ужо год, як ладу ў хаці німа.* Горкі Краснап.

СУ́ТНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Сутнасць. *Верціцца кыля ды вокыла, а самый сутнысьці дзела ні гаворіць.* Бяседавічы Хоцім.

СУТО́ЧКА, -і, *ж.* Месца злучэння, сточкі бярвенняў у сцяне. *Цельга бярна ні хапіла, дык суточку пріставілі.* Нізькі Касцюк. *Мост на суточках.* Хвёдараўка Краснап.

СУТО́ЧКІ, -чак, *мн. л.* Сутычкі, прагал паміж двух будынкаў. *У суточкі ўлез цялёнык, а нызад ня ўмея вылізьць, нада йці выганяць яго аттуля.* Баеўка Крыч.

СУЎПАДЗЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Супадзенне. *Ікраз выйшла суўпадзеньня двух сьвят у вадзін дзень.* Слаўнае Мсцісл.

СУХАВЕ́ЙЦА, -ы, *ж.* Сухавея. *Сухая, ветраная пагода ў сухавейцу.* Касцюковічы.

СУХАДО́Л, -а, *м.* Сухадол, сухі луг. *На сухадолах сёліта травы дрэнныя.* Добрае Мсцісл.

СУХАДУ́ШЫНА, -ы, *ж.* Моцны ўдар. *Ну, ды ўкладу ж я табе сухадушыну за ета.* Галоўчыцы Калінішчына.

СУХАЗЕ́МНЫЙ, *прым.* 1. Сухі. *Грунт у нас сухаземный, вады быгата яму нада, штоб радзіла.* Клясін Краснап. 2. Сухапутны. *Сухаземныя матросы.* Маластоўка Краснап.

СУ́ХАМ, *прысл.* Пасуху, сухім месцам. *Сухам прайшлі хлопцы, нійдзе ні пумачылися.* Палуж Краснап.

СУХАПА́РЫМ, *прысл.* Без вады [гарачым паветрам]. *Кіеўкі зварыны сухапарым.* Горкі Краснап.

СУХАПУ́ТНЫЙ, *прым.* Сухапутны. *Сухапутныя чэрці вы!* Хвёдараўка Краснап.

СУХА́Р, -я, *м.* Сухар, высушаны хлеб. *Паўлюк насушыў сабе ў дарогу сухароў.* Гібалы Касцюк.

СУХАСТО́Й, -ю, *м.* Сухастой, высахлае на корані дзерава. *Ты зрезуў бы на дровы там сухастой, у лесі ж сухастою шмат ёсьць, па некылькі год на корні сохнуць.* Арцёмаўка Міласл.

СУХАСТУ́ПЫ, -аў, *мн. л.* Боты. *Узьдзеў сухаступы і пайшоў.* Хвёдараўка Краснап.

СУХІ́Й, *прым.* Сухі, высахлы. *Гэтыя дровы аблетувыя, яны сухі, як порах.* Пірагова Мсцісл. *Я вельмі люблю сухі хлеб.* Бяседавічы Хоцім. *Сена зялёныя — скошына ў сухую пагоду.* Прыпечына Калінішчына.

СУХМЕ́НЬ, -і, *ж.* Сухмень, засуха. *Ад сухмені зялёныя яр жаўцець пачыла.* Сохана Мсцісл.

СУХО́ТНІК, -а, *м.* Сухотнік, хворы на сухоты. *Здаецца сухотнік, а жылістэй.* Брылёўка Краснап.

СУХО́ТНІЦА, -ы, *ж.* Сухотніца, хворая на сухоты. *У Марка жонка сухотніца, скора памрэць, дык ён ужо січас да дзевык зыліцаіцца.* Варнёва Крыч.

СУХУМЯ́ТКА, -і, *ж.* Сухамятка. *Што ета за жыцьцё — іда ўсягды сухумятка, крупені якей ці варіва німа з чаго зьдзелыць.* Арцёмаўка Міласл.

СУХЫШЧА́ВЫЙ, *прым.* Сухарлявы. *Ты яго ні ўкорміш, хуць ты яго як хош кармі, ён усягды такей сухышчавый.* Арцёмаўка Міласл.

СУЦЬ, -і, *ж.* Сэнс. *Тут самыя суць у том, што яго пысадзілі ні за што ні пра што.* Маркаўка Хоцім.

СУЦЭ́ЛЬНА, *прысл.* Суцэльна. *Мужчынскую рубаху нада суцэльна краіць, ета ж табе ні бабскыя, што сарочку сабе, а постыўку сабе, а тады шшываць будзіш.* Арцёмаўка Міласл.

СУ́ЧКА, -і, *ж.* 1. Сучка [сука]. *Сучка і тая любіць свайго шчанёнка, а штоб матка ні любіла свайго дзіцёнка.* Арцёмаўка Міласл. 2. Дошчачка з дзірачкамі для накручвання навоя ў кроснах. *Ткальля падкручывыіць навой сучкай.* Вінаградаў Міласл. 3. Понаж у калаўроце. *На сымыпрядкі прясьць нельга — сучка ня йдзець.* Хвёдараўка Краснап.

СУ́ЧКІ, -чык, *мн. л. бат.* Сабачкі, ваўчкі. *Пыныбрайся сучык у адзежу.* Палуж Краснап.

СУЧО́К, -чка, *м.* Сучок. *Лез ны яблыню, дык сучок абламіўся, і я пыляцеў ны зямлю.* Азерцы Клім. *Ны сучкох віселі капкі пысьля дожджу.* Ушакі Чэрык.

СУ́ЧЧА, -а, *н. зборн.* Суччa [сукі]. *Як лез на дрэва, дык пырваў штаны аб суччa.*

*Нада б абсеч сучча ны яблынях.* Пірагова Мсціслі.

СУЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Сукаць, скручваць нітку ў дзве столкі. *Нада ніткі сучыць, ато шыць нечым.* Бель Мсцісл.

СУ́ШНЯ, -і, *ж.* Сушня, будынак, дзе сушаць лён. *Пойна сушня лёну, нада ж яго ўвесь зьмяць.* Стары Дзедзін Мілаcл. *У сушні дзеўкі трэплюць лён.* Рачкавічы Слуц.

СУШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Сушыць. *Сена было сухоя, а пысьля туману так ныбрякла, што яшчэ два дні нада сушыць.* Слаўнае Мсцісл. *У асеці сушаць снапы.* Вародзькава Крыч.

СХАВА́ЦЦА, *дзеясл.* Схавацца. *Вутка на возірі схавалась у ваду.* Юркаўка Крыч.

СХАВА́ЦЬ, *дзеясл.* Схаваць. *Схаваеш далёка — знойдзеш блізка.* Бель Мсцісл.

СХАДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Выходзіцца, злучацца. *Етыя дарогі будуць схадзіцца там у лясу.* Бяседавічы Хоцім. 2. Згаджацца. *Мы зь ім схадзілісь па характару.* Маластоўка Краснап.

СХАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Схадзіць. *Мне треба схадзіць к кывалю, ды ўсё некылі.* Гібалы Касцюк. *Трэба схадзіць ны магільнік агведыць дзядоў.* Тур'я Чэрык. *Нічога ня дзелыць, шлындыць пы дзярэўні, а ў зыработкі ня хочыць схадзіць.* Арцёмаўка Міласл.

СХАДО́К, -дка, *м.* Трэцяя фаза, квадра месяца. *Цяпер месік зрушая з поўныга, цяпер схадок.* Хвёдараўка Краснап.

СХА́ІНЫЙ, *прым.* Зганьблены. *Схаіў дзеўку, штоб ніхто яе ні ўзяў, а сам на схаіный і ажаніўсь.* Арцёмаўка Міласл.

СХА́ІЦЬ, *дзеясл.* Зганьбіць. *Схаіў маю работу, як бы іна нічога ні варта.* Палуж Краснап.

СХАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Схапіць, узяць. *Ён паціху падышоў і схапіў мяне адзаду.* Лешчынка Мсцісл. *Міхась схапіў сякеру і хацеў зысячы сыбаку.* Гарадок Расняп. *Яго схапіў мыладзеніц* (прыпадак). Мядвёдаўка Краснап. *Мышаку схапіў і памёр.* Старае Сяло Мсцісл.

СХВА́СТЫЦЬ, *дзеясл.* Пахваліцца. *Дзед хацеў схвастыць і гаворіць, што сам здзелый піпку, а ета ніпраўда.* Арцёмаўка Міласл.

СХВА́ТЛІВЫЙ, *прым.* Цямлівы. *Схватлівый ты хлопіц.* Хвёдараўка Краснап.

СХВАЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Схапіць. *Еў ложкай, а тады відзіць, што мала зысталося — схваціў міску ды набгом.* Бяседавічы Хоцім.

СХВЫЛЬШЫВА́НЫЙ, *прым.* Сфальшаваны, падроблены. *Етый квіток нідзісьцывіцільный: ён схвыльшыванный.* Маркаўка Хоцім.

СХІ́БІЦЬ, *дзеясл.* Схібіць, памыліцца, не папасці ў цэль. *Стрэліў я сёньні ў зайца, але схібіў, так і ўцёк ад мяне заяц.* Ушакі Чэрык.

СХІЛ, -у, *м.* Схіл. *Адцюль к речкі схіл, дык там здаецца, што гыра, а ны самым дзеле там дужа роўныя месца.* Забелышана Хоцім.

СХІЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Схіліцца, нахіліцца. *Бяреза ны дарогу схілілыся, веткі чуць ды зямлі ні дыстаюць.* Белы Мох Мсцісл.

СХІЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Схіліць. *Дзіцёнык схіліў гылаву маткі ны плічо ды заснуў.* Маркаўка Хоцім.

СХІСНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Схіснуцца [пахіснуцца]. *Ішоўшы, я неяк схіснуўся ды нагу зьвіхнуў.* Канічы Касцюк.

СХІТРІ́ЦЬ, *дзеясл.* Схітраваць. *Ён хацеў схітріць, дык мы дыгыдалісь.* Арцёмаўка Міласл.

СХО́ВАНЫЙ, *прым.* Схаваны. *У яго мо гаршчок грошы схованы, а ўсё плачыць, што німа.* Вародзькава Крыч. *Я зыпрымеціў, што ў яго там нешта сховына.* Пірагова Мсцісл.

СХО́ВЫ, -ыў, *мн. л.* Сховы [схованка]. *Знаю я, йдзе яго сховы. Пойдзем пыд капою паішчым, ён там, верна, пыклаў.* Арцёмаўка Міласл. *Ніяк не знойдзіш, калі трэба — дужа ўжо сховый многа.* Маластоўка Краснап.

СХОД, -у, *м.* Сход. *Трэба абвясьціць усім, каб ішлі на сход.* Сохана Мсцісл.

СХО́ДКА, -і, *ж.* Сход. *Ён хочыць ны мяне нываліцца ны сходцы, а я яго ні баюсь.* Слаўнае Мсцісл.

СХО́ДНА, *прысл.* Сходна [памяркоўна]. *Сходна ты, кум, купіў сабе кыня.* Лешчынка Мсцісл.

СХРУ́ПЫЦЬ, *дзеясл.* З'есці што-небудзь хрусткае [схрумстаць]. *Схрупыў кухын.* Хвёдараўка Краснап.

СХУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Схавацца. *Сват ідзець! Нада схувацца куды-небудзь, ато ні даць гарелкі нялоўка, а ўзяць яе нейдзі, а так — німа ў дваре хызяіна, і канец дзела.* Бяседавічы Хоцім. *Дождж скора будзець, нада знайсьці, дзе схувацца.* Ушакі Чэрык. *Поджыгайла етый толькі падвухрый, а як прішло да дзела, дык і схуваўся.* Забычанне Касцюк.

СХУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Схаваць. *Ён дзіржаў нешта ў руке, а як увідзіў нас, дык хацеў схуваць, а мы ўвідзілі, ды цап яго зы руку.* Арцёмаўка Міласл.

СХУДЗЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Схудзець, зрабіцца худым. *Схудзеў, што аж лыкаўкі выперліся.* Палуж Краснап.

СХЫВА́ЦЦА, *дзеясл.* Схавацца. *Схываўсь пыд ваду, адны бурдулькі наверсі пашлі.* Парадзіна Мсцісл. *Дывай гуляць у жмуркі: ты зажмурь вочы, а я схываюся.* Гібалы Касцюк.

СХЫПАНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Спахапіцца. *Схыпануўсь Мікола — нада было ні спаць, вот і ўпусьціў дзеўку.* Палуж Краснап.

СЦАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Сцадзіць, зліць ваду. *Сцадзі-тка бульбу ды пыстаў ны жар, ніхай прасохніць.* Хвёдараўка Краснап.

СЦАЛЕ́ННЫЙ, *прым.* Гаючы, лекавы. *Крынічка там ёсьць, і ў ёй сцаленныя выда.* Палуж Краснап.

СЦЮДЗЁНА, *прысл.* Сцюдзёна, холадна. *Ныпрятувыйсь пыцяплей, ато дужа сцюдзёна ны дваре.* Слаўнае Мсцісл.

СЧА́УРЫЦЬ, *дзеясл.* Ссохнуць. *Як памёр у яе Янка, дык жанчына проста ў вачу счаўрыла.* Негін Касцюк.

СЧА́ХНУЦЬ, *дзеясл.* Зменшыцца агню. *Счахла ў печы. Цяпло счахла, жар счах саўсім.* Хвёдараўка Краснап.

СЧУЦЬ, *дзеясл.* Пачуць, даведацца. *Людзі, як счулі ета, дык усе кінуліся туды.* Тур'я Краснап.

СЧЫХАЦЬ, *дзеясл.* Уміраць ад голаду. *Прыдзіцца счыхаць ня еўшы.* Хвёдараўка Краснап.

СШЫМАНЕЦЬ, *дзеясл.* Здурэць, звар'яцець. *Сшыманеў хлопец: злавіў кыня ды пычаў яго путым біць.* Дарагая Крыч.

СШЫЦЬ, *дзеясл.* Сшыць, пашыць. *Хлопцу сшылі новыя штаны.* Машавая Бялынкав. *Сшыла яму гылаплёчку, ніхай носіць.* Хвёдараўка Краснап. *Сшылі новыя чаботы.* Журбін Бялынкав.

СЫБАКА, -і, *м.* Сабака. *Сыбака ны парогу ляжыць і нікога ў хату ні пушчаіць.* Стары Дзедзін Міласл. *Сыбака абнюхаў пень і пабех далей у лес.* Белы Камень Бялынкав. *Ны нашыга сыбаку нейкі шал найшоў — на людзей стаў кідацца.* Добрае Мсцісл. *Рыздражнілі сыбаку, дык дзіва што ён кусаіцца.* Макуліна Раснян.

СЫБАЧКА, -і, *м.* Памяншанне ад сабака. *Маліңкій сыбачка, а якей зьвяглівый.* Нізькі Касцюк. *Сыбачка брешыць на некыга.* Дарагая Крыч.

СЫБАЧКІ, -чык, *мн. л.* 1. *бат.* Сабачкі, кветкі львіны зеў. *У нашым палісаднікy растуць сыбачкі жоўтыя і красныя.* Піpагова Мсцісл. 2. *бат.* Ваўчкі. *Хадзіў пы гароду, дык пыныбраўсь сыбачык у 'дзежу.* Хвёдараўка Краснап.

СЫБАЧЧЫЙ, *прым.* Сабачы. *Ня будзь ты сыбаччым заскокым.* Хвёдараўка Краснап. *Маіш ты сыбаччыю натуру бріхаць ны ўсякыга.* Канахоўка Клім.

СЫБАЧЫ РАМОН, *бат.* Рамонак. *Пыбяжы ны дарогу ды нарві сыбачыга рамону, ныпарыць трэба — дзіця нешта кашляе.* Барысавічы Клім.

СЫБІРАЦЦА, *дзеясл.* Рыхтавацца. *Знаць, жаніцца сыбіраішся, што хренч сабе такей пашыў?* Бяседавічы Хоцім.

СЫБРАЦЬ, *дзеясл.* Сабраць, назбіраць. *Жыбрак сыбраў кайстру хлеба.* Дзяніскавічы Навазыбк. *У Антонькі ды явыр ны дваре || Сыбраў пір ні людзём — сабе.* З нар. песні, М. Г. 2.

СЫБРЫЖАЦЬ, *дзеясл.* Цяміць. *Гылаву за дзень адурілі, што нічога ні сыбрыжаіць.* Слаўнае Мсцісл.

СЫВА, -ы, *ж.* Сава. *Сыва куріцу зыдрала.* Канахоўка Клім. *У савы крепкія кохці.* Арцёмаўка Міласл.

СЫГЛАСІЦЦА, *дзеясл.* Згадзіцца. *Калі ён ні сыгласіцца выдзіліць мне часьць, дык я ў суд пыдам.* Арцёмаўка Міласл. *Упасьледык-такі ён са мной сыгласіўся.* Залачова Мсцісл.

СЫГНАЦЬ, *дзеясл.* Сагнаць. *Толькі сыгнаў сьвіней з гароду, а яны ўзноў там, а штоп вы падохлі!* Варанёва Крыч. *Як пычылася атлыга, дык увесь сьнег сыгнала.* Хвёдараўка Краснап.

СЫГРІБАЦЬ, *дзеясл.* Зграбаць. *Дывайця нам граблі, мы будзім саломку сыгрібаць.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

СЫДРАЦЬ, *дзеясл.* 1. Абадраць [злупіць]. *Сыдралі зь ліпы кару, дык іна і засохла.* Касцюшкавічы Крыч. 2. Счасаць, расчасаць. *Нада воўну сыдраць, ато кылі яшчэ стolькі пувыляіцца на печы, дык у ляміц сваліцца.* Бяседавічы Хоцім. 3. Абадраць, аграбіць. *Ай, попя, попя — псяюха, || Ай, чуць ні сыдраў кажуха; || Ай, каб мы больш стыялі, || Сыдралі б у нас сыяны.* З вясельнай песні, М. Г. 20.

СЫЖДАЦЬ, *дзеясл.* Саджаць. *Мне бацька купіў картуз, ды вялікей: хуць дзьве гылавы ў яго сыждай.* Бяседавічы Хоцім.

СЫЖРАЦЬ, *дзеясл.* [Зжэрці], з'есці. *У выўка тыкая быльшая зяпа, што ён можыць ягнёнка целыга зразу сыжраць.* Арцёмаўка Міласл. *Увосінь мурогу ня хочыць есьць, а ўвясну й аб'еддзя сажрэць.* Сутокі Мсцісл.

СЫЗНАБІЦЬ, *дзеясл.* Стаміць, змучыць боллю. *Дзеўка сызнабіла серца, хлыпца ждучы.* Самацевічы Краснап.

СЫЗЫЙ, *прым.* [Шызы], сінявата-цёмны. *Голуб сызый. У п'яніцы нос сызый.* Парадзіна Мсцісл.

СЫЙСЬЦІ, *дзеясл.* Зыйсці. *Ён дайжа ні падумуў з места сыйсьці, штоб памоч чылавеку.* Арцёмаўка Міласл.

СЫКА, -і, *ж. бат.* Асака. *Маё сена коні дужа дрэнна ядуць, у ём многа сакі.* Пірагова Мсцісл. *Кыла балота толькі сыка расьцець, а каровы яе любюць: улезуць у яе па пуза і ядуць.* Арцёмаўка Міласл. *Увосінь нудна шуміць пы балотых сыка.* Слаўнае Мсцісл.

СЫЛАВЕЙ, -ўя, *м.* Салавей. *У нас у садзе пысяліўсь сылавей — кожны вечыр сьпіваіць.* Бакунавічы Чэрык.

СЫЛАВЕЙКІН ПАРЫБЫЧЫК, *заал.* Слаўка (птушка). *Ета гнязо сылавейкыныга парыбычка — яечкі, бач серынькія.* Хвёдараўка Краснап.

СЫЛАДУН, -а, *м.* Саладун, сахарын. *У вайну, калі нідыстывала сахыру, дык куплялі сыладун і пілі чай с сылыдуном; ны стыкан вады яго нада толькі макывыя зярно, ні большы.* Слаўнае Мсцісл.

СЫЛАДУХА, -і, *ж.* Солад, закваска на піва, гарэлку. *Ныбраўся сыладухі — цяпер уродыя.* Хвёдараўка Краснап.

СЫЛАНЕШНІК, -а, *м.* Сланечнік. *У гародзе расьцець сыланешнік.* Кокатава Мсцісл. *Вырысьціць сыланешнік, тады скруцім яму гылаву і будзім лузкаць семя.* Слаўнае Мсцісл. *Ны гародзе вісокія жоўтыя сыланешнікі растуць.* Парадзіна Мсцісл.

СЫЛДАТ, -а, *м.* Салдат. *Сылдат прыдаў блішчанку з рыбай.* Палуж Краснап. *Пукупіў у сылдата кызанок.* Ясенка Краснап. *Сылдату ў пяхоці даюць вінтоўку і штых.* Арцёмаўка Міласл.

СЫЛДАЦКІЙ, *прым.* Салдацкі, вайсковы. *Сыграй-ка мне сылдацкій марш.* Слаўнае Мсцісл. *Сылдацкія сыпагі купіў.* Палуж Краснап.

СЫЛДЫТНЯ, -і, *ж. зборн.* Салдаты. *Сылдытня йдзець ны саборны двор.* Канахоўка Клім.

СЫЛМАРЕЗКА, -і, *ж.* Сячкарня, машына рэзаць салому на сечку. *Наша сылмарезка хырашо режыць резь з аржаной саломы.* Канічы Касцюк.

СЫЛЫМАГА, -і, *ж.* Гульня. *Дывай гнуць сылымагу! Галовы пыкладзём уместа, а ныгамі будзім пірікідаць адзін другога.* Горкі Краснап.

СЫЛЫПАЦЬ, *дзеясл.* Салапаць. *Сылыпаць языком нечыга, калі дура.* Хвёдараўка Краснап.

СЫЛЫЧЧА́К, -а, *м. бат.* Грыб белы з загнутымі берагамі ў шапцы, хрусткі. *Пашоў у грібы ды замест сылыччакоў ныбраў сьвіньней. Ні знаіць, што сьвіньні, калі ныдлумаць, дык з яго мылако цякець, ды і чорный зверху, хуць і такей, як сылыччак.* Арцёмаўка Міласл.

СЫЛЬЦІСО́Н, -а, *м.* Сальцісон, тоўстая каўбаса (правэнджаная). *Дзесяць сыльцісоныў зьдзелыла.* Палуж Краснап.

СЫЛЯ́НКА, -і, *ж.* Сальніца, пасудзіна на соль. *Схадзі ў клець і насып сылянку солі і пыстаў яе на печ, ніхай прасохніць.* Бяседавічы Хоцім.

СЫМАВО́ЛКА, -і, *ж.* Свавольніца [непаслухмяная]. *Сымаволка іна ў мяне, нікога ня слухаіць.* Васілёўка Хоцім. *Ікая ў цябе дычка сымаволка, як-то можа быць, штоб іна маткі ні слухыла.* Дарагая Крыч.

СЫМАВО́ЛЬНІЦА, -ы, *ж.* Свавольніца. *Тыкая стала сымавольніца, што нікога ні пытаіцца — што хочыць, то і дзелыіць.* Арцёмаўка Міласл.

СЫМАВО́ЛЬНЫЙ, *прым.* Свавольны [непаслухмяны]. *Што ж ты ня слухаішся? Дужа сымавольный расьцеш!* Пірагова Мсцісл.

СЫМАВО́ЛЬСТВА, -а, *н.* Свавольства, непаслушэнства. *Сымавольства пашло вялікыя: што хто хочыць, то і дзелыіць.* Касперка Міласл.

СЫМАВУ́ЧКА, -і, *м. і ж.* Самавучка. *Наш кываль — сымавучка, а зьдзелыіць луччы наўчоныга.* Маластоўка Краснап.

СЫМАВУ́ЧЫМ, *прысл.* Самавучэннем. *Нідзе я ні вучыўсь — сымавучым дайшоў, прабіў сабе дарогу.* Хвёдараўка Краснап.

СЫМАВУЧЭ́НЬНЯ, -я, *н.* Самаадукацыя. *Я прайшоў курс сымавучэньня ў нашым дзеравенскім універсітэце.* Пірагова Мсцісл.

СЫМАГО́Н, -у, *м.* Самагонка. *Выпіў сымагону, дык другей дзень ляжыць — ніяк ні расчухыіцца.* Ясенка Краснап.

СЫМАГО́НКА, -і, *ж.* Самагонка. *Ныбраўся сымагонкі, дык ляжыць біз паміці.* Ясенка Краснап.

СЫМАДЗЕ́ЛЬНЫЙ, *прым.* Самаробны. *Ета сымадзельныя сукно — сымытканіна.* Пірагова Мсцісл.

СЫМАДЗЕ́ЛЬШЧЫК, -а, *м.* Саматужнік. *Мой бацька — сымадзельшчык, бондар, прыдаець бочкі на бызары.* Пірагова Мсцісл.

СЫМАДРЫ́НА, -ы, *ж.* Тварог з сыроваткай, кіслае малако. *Я сыбрала многа сымадрыны.* Восаў Краснап.

СЫМАДУ́РАЦ, -рца, *м.* Самадур, чалавек без сталага погляду, няўстойлівы. *Ат етыга сымадурца ўсяго можна ждаць.* Хвёдараўка Краснап.

СЫМАЛУ́К, -а, *м.* Сагнутая палка, якая абводзіцца з трох бакоў бараны, служыць асновай і да якое прычапляецца ворчык, калі барануюць. *Сымалук у быране пулумаўсь.* Хвёдараўка Краснап.

СЫМАРУ́ЖКА, -і, *ж.* Кветка. *Сымаружка пы дубровым жоўтым цьветым цьвіцець.* Хвёдараўка Краснап.

СЫМАСЕ́Д, -а, *м.* Чалавек, які доўга сядзіць за сталом у часе абеда. *Сымасед ты, ніяк ні нысіся.* Хвёдараўка Краснап.

СЫМАСЕ́Й, -я, *м.* [1. Тутун-самасад] 2. Дзіця без шлюбу. *Дзіцёнык-сымасей — бацькі ў яго німа, адна маці зь ім.* Маластоўка Краснап.

СЫМАСЕ́ЙКА, -і, *ж.* 1. Самасейка, тытун свайго гатунку. *Як ні стала махоркі, дык дзядзькі пынаўчылісь тыбаку сеіць і січас усі сымасейку кураць.* Рылаўшчына Мсцісл. 2. Дзіця без шлюбу. *Ета дзяўчынка-сымасейка, вырісла біз бацькі.* Палуж Краснап.

СЫМАСІ́НЯ, -і, *ж.* Доўгая верхняя вопратка. *Во надзела сымасіню.* Хвёдараўка Краснап.

СЫМАСУ́Й, -я, *м.* Самасуй, выскачка. *Ня будзь ты сымасуім, ня лезь, куды цябе ня просяць.* Маластоўка Краснап. *Сымасуй етый усюдых вылізіць, усюдых ён перьвый.* Ясенка Краснап.

СЫМАХО́ЦЬ, *прысл.* Добраахвотна [сваёю ахвотаю]. *Мой Пятрок хочыць іціць сымахоць у сылдаты.* Лешчынка Мсцісл.

СЫМАХО́ЦЬЦЮ, *прысл.* Добраахвотна, сваёю ахвотаю. *Сымахоцьцю атдаў свату сваю люльку, а січас во кручу цыгаркі с сымасею.* Гарцуеўка Краснап.

СЫМО́Н, -а, *м.* Уласнае імя Сымон. *Пыдаждзіы, будзіць іці Сымон, дык умесьці пойдзім.* Баеўка Крыч.

СЫМУВА́Р, -а, *м.* Самавар. *Сымувар ужо закіпеў, зьварівый чай.* Старае Сяло Мсцісл.

СЫМЫПРЯ́ТКА, -і, *ж.* Самапрадка, калаўрот. *Ны сымыпряткі шнуры пырвалісь, нада зьдзелыць другея.* Арцёмаўка Міласл.

СЫМЫТКА́НІНА, -ы, *ж.* Саматканне. *Ета сукно ні купліныя, а сымытканіна.* Пірагова Мсцісл.

СЫМЫУПРА́ВА, -ы, *ж.* Самаўпраўства. *Што вы яго забіць хочыця? Што за сымаўправа! Я міліцыю гукну.* Пірагова Мсцісл.

СЫН, -а, *м.* Сын. *Яго сын ужо ў школу ходзіць, у сімілетку.* Бяседавічы Хоцім. *Добрыга ты, сват, сына маіш, ладны хлапец.* Нізькі Касцюк.

СЫНІТА́Р, -а, *м.* Санітар. *Калі я быў ны вайне, дык служыў сынітарым.* Бяседавічы Хоцім.

СЫНО́К, -нка, *м.* Памянш. ад сын. *Бяжы, сынок, ак бацьку наўстрэч!* Маластоўка Краснап. *Што ты, сынок, робіш, чытаеш?* Залесавічы Крыч.

СЫНЫПРА́ДКА, -і, *ж.* Самапрадка, калаўрот. *Мыя сыныпрадка сыпсувалыся — ні прадзець.* Людагошч Мсцісл. *Іна ны сыныпрадку прадзе, а ні на вірцяно.* Касцюшкавічы Крыч. *Сыныпрадкі німа, а ны вірцяно многа ні ныпрадзеш.* Зоры Чэрык. *Ны вірцяно дренна прясьць; нада сыныпрядку купіць, кажуць, сыныпрядка стоіць трі рублі.* Арцёмаўка Міласл.

СЫ́НЬНІЙ, *прым.* Сынаў. *Сыньній хлеб ем, ні чужы! Сыньнія натура ўпірлівыя.* Палуж Краснап.

СЫПАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Сыпнуць. *Сыпануў пяском і зыпарушыў вочы.* Нізькі Касцюк. 2. [Сапануць], бадануць. *Яго карова сыпанула рогам у сьпіну.* Куркаўшчына Мсцісл.

СЫПРАУДНЫЙ, *прым.* Сапраўдны. *Глядзім — уваходзіць у хату сыпраўдный міліцыянер, з ныганым, у шынялі.* Пірагова Мсцісл.

СЫПРА́ЎДЫ, *прысл.* Сапраўды. *Мы думалі, што ён хлусіць, ажно сыпраўды так, як ён кызаў.* Глупікі Крыч.

СЫ́ПЫЦЦА, *дзеясл.* Сыпацца. *Жыта зь мішка сыпіцца, дзірка ёсьць у ім ці што.* Забелышана Хоцім. *Зь печы іскры сыплюцца.* Ясенка Краснап. *Ны дваре сыпліцца нейкыя рось — дробны, як пыл, дожджык.* Сохана Мсцісл.

СЫ́ПЫЦЬ, *дзеясл.* Сыпаць. *Сып бульбу ў прысык, дык у мамент спякецца.* Бяседавічы Хоцім. *Жыта будзем сыпаць у клецьі.* Новыя Капачы Мсцісл. *Дос табе сыпаць, ні бачыш, што поўна ўжо.* Макуліна Раснян.

СЫР, -у, *м.* Сыр. *К вялікыдню у нас зыўсягды выціскаюць твораг і дзелыюць сыр.* Пірагова Мсцісл. *Нылажылі сыру цэлы мыкацёр.* Машавая Бялынкав. *Бірясьцень з сырамі нада з чулана ў погріб занесьць, ато штоб ён ат марозу ні лопнуў.* Арцёмаўка Міласл.

СЫРАВЕ́ЖКА, -і, *ж. бат.* Суравежка, сыраежка, грыб. *У рошчы сыравежак многа: і красныя, і жоўтыя — усякія.* Парадзіна Мсцісл. *Я сыравежык ныбрала поўны кошык.* Арцёмаўка Міласл.

СЫРАВЕ́Ц, -ўца, *м.* Квас. *Пыляздзі, сынок, ці ўкіс ужо сыравец.* Мсціслаў. *Сыравец ужо ўвесь вышаў, нада сьвежыга задзелыць.* Каробчына Мсцісл.

СЫРАДО́Й, -ю, *м.* Свежае, толькі-што надоенае малако. *Выпі мылыка, гэта ж сырадой — толькі з-пыд каровы.* Старае Сяло Мсцісл. *Сырадой дужа добра піць.* Палуж Краснап. *Мне прынесьлі сырадою, дык я выпіў стыкан.* Стары Дзедзін Міласл.

СЫРА́Й, -я *м.* Хлеў. *Зынясі хамут у сырай пыкладзі.* Зарубец Крыч.

СЫРА́ЙЧЫК, -а, *м.* Хлевушок. *Сырайчык ужу быў зрубліный, толькі яшчэ ні пыстаўлін на места, ны штындары.* Арцёмаўка Міласл.

СЫРАМЛІ́ВА, *прысл.* Сарамліва. *Сырамліва троху стала, але нічога ні падзелыйш.* Юшкі Мсцісл.

СЫРАМЛІ́ВЫЙ, *прым.* Сарамяжлівы. *Сырамлівый чылавек, вечна красьнеіць.* Слаўнае Мсцісл.

СЫРАМЛІ́ВЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Сарамяжлівасць. *У гэтай дзевычкі многа сырамлівысьці: яна хуваіцца зы матку, каб яе ні бачылі.* Сохана Мсцісл.

СЫРВА́ЦЦА, *дзеясл.* Зрушыцца. *Зьнячывілі сырваўсь і пабег.* Брылёўка Краснап.

СЫРВА́ЦЬ, *дзеясл.* Сарваць. *Калі сырваць гыркаўку, дык унізе выступаець горкае мылако.* Пірагова Мсцісл. *Кажуць, што калі сырваць цьвет папырыці, то будзеш усё чыста знаць, айдзе што ёсьць і дзе што дзелыіцца.* Зоры Чэрык.

СЫРЫ́Й, *прым.* Сыры. *Сыры хлеб — рана вынялі зь печы.* Нізкі Касцюк. *Зімля йшчэ сырая, ні лажысь, бо прастудзісься.* Касцюшкавічы Крыч. *Дужа груба змолата, знаць, жыта сыроя было.* Пірагова Мсцісл.

СЫРЫВА́ТЫЙ, *прым.* Сыраваты, недавараны, недапечаны. *Сяньні хлеб сырываты — мала дроў было, дык печы ні ныталіла.* Канахоўка Клім. *Пыстаў у печ бульбу дываргцы, ато іна сырыватыя.* Балакеры Мсцісл.

СЫРЫКВА́ША, -ы, *ж.* Скіслае малако [без верху]. *Я хачу зьесьці сырыквашы.* Бродкі Крыч. *Матка зьніла сьмітану з гырлыча і дыла дзіцям сырыквашы.* Арцёмаўка Міласл.

СЫРЫКВА́ШКІ, -шык, *мн. л.* Калёсы, неакованыя жалезам. *Ён жа да етых пор усё на сырыквашкых езьдзіць — куваць каткі ня хочыць.* Тэкліна Шумяц.

СЫРЫМЯ́ТНЫЙ, *прым.* Сырамятны, з сырой нядубленай скуры. *Гужы бываюць сырымятныя і вяроўчыныя.* Бязводзічы Мсцісл.

СЫРЫХВА́Н, -а, *м.* [Сарафан], камбінацыя спадніцы і сукенкі без рукавоў. *Мой сырыхван сатлеў на нет, лежачы ў скрыні.* Слаўнае Мсцісл.

СЫРЯВІ́НА, -ы, *ж.* Сырая, нявырабленая скура. *Добрыя была б падошва з етый сырявіны.* Боханы Росл.

СЫСКВА́РЫЦЦА, *дзеясл.* Спячыся. *Сала на сквырадзе сыскварылысь.* Сохана Мсцісл.

СЫСКВА́РЫЦЬ, *дзеясл.* Спячы. *Німа чаго паесьць, хуць сала сыскварыць нада ды с хлебым зьесьці.* Азерцы Клім.

СЫСМА́ЖЫЦЦА, *дзеясл.* Сасмажыцца. *Бульба сысмажылась, можна ўжо есьць.* Хвёдараўка Краснап.

СЫСНАБІ́ЦЬ, *дзеясл.* Заспакоіць, супакоіць. *Сыснабі ты маё серца, прыдзі сяньні вечырым.* Бялынкавічы.

СЫСНУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Саснаваць. *Кумычка, ці можна будзіць сыснуваць дзьве губычкі красён ны тваёй снувальні?* Бяседавічы Хоцім.

СЫССА́ЦЬ, *дзеясл.* Выссаць. *Як зьмія ўкуся — трэба сыссаць усю кроў.* Палуж Краснап.

СЫСТАРЭ́ЛЫЙ, *прым.* Састарэлы, стары. *Мае бацькі сыстарэлыя, слабыя ўжо, іх нада шкадуваць.* Пірагова Мсцісл. *Етый гріб ужу саўсім сыстарэлый, ужу аж раскіс, ды й чэрві пытачылі.* Арцёмаўка Міласл.

СЫСУ́Н, -а, *м.* Сысун. *Пырясёнык шчэ сысун, сусім малодзінькій.* Клясін Краснап.

СЫСУНО́К, -нка, *м.* Памянш. ад сысун. *Жырябок — сысунок, а выглідае, ік стрігунок.* Восаў Краснап.

СЫСЬВЯЖЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Асвяжыцца [сканацьі]. *Кыбан сысьвяжыўся. Ён сысьвяжыўся ўжо, як пасьпелі туды.* Хвёдараўка Краснап.

СЫСЬМІЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Пасмяяцца, пакпіць. *Сысьміяліся зь мяне, ды ячшэ і пры людзях.* Пірагова Мсцісл. *Сысьміялыся з мяне дзяўчынка — ні пышла зы мяне.* Журбін Бялынкав. *Доля сысьміялыся зь мяне.* Палуж Краснап.

СЫСЬЦІГА́НЫЙ, *прым.* Слаба сшыты [сасцябаны, сфастрыгаваны]. *Мне пашылі пальто, дык што ты думаіш — рубцы толькі сысьцігань нажыва, пыцягні дык і парвецца.* Слаўнае Мсцісл.

СЫСЬЦЯБНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Сшыць лёгка, счапіць [сшыць рэдкім радком, сцяжком, сфастрыгнуць]. *Мне было некылі, дык я скарей сысьцібнула на жывую нітку ды надзела.* Хвёдараўка Краснап.

СЫУПА́Д, -у і -а, *м.* Супадзенне. *Ета ж сыўпад: мы аднагодкі і імя адно — Сьвіріды абоя.* Лютня Краснап.

СЫЎРЫТКА, -і, *ж.* Сыроватка. *Накрый сыўрытку ў сенцых, ато сыбакі будуць хліб-таць, надовічы зьелі.* Арцёмаўка Міласл.

СЫХА, -і, *ж.* 1. Саха, старая земляроб-чая прылада для арання. *Сыха ныйшла ны камінь, і лімяшы зламілісь.* Бяседавічы Хо-цім. *Сыха ўжо ў нас ня ўжываіцца.* Бязво-дзічы Мсцісл. 2. Слуп, які падтрымлівае страху. *Сыха дзяржыць пыдпавецьце.* Пух-нава Расням. *Вілатыя сыха пыстаўліна ў асеці.* Хвёдараўка Краснап.

СЫХРАН, -у, *м.* Схова [захаванне]. *Дзядзька ўзяў грошы на свой сыхран.* Па-луж Краснап. *Грошы ў банку ліжалі пыд сыхраным.* Палуж Краснап.

СЫЦЬ, -і, *ж.* Сыць [укорм]. *Во пыганыя пырысяты, зыкырысьлявіліcь, і сколькі іх ні карьмі, дык сыці на іх німа — ня ўкорьміш.* Арцёмаўка Міласл.

СЫЧАВІШНІК, -а, *м. бат.* Чачавіца, сачоўка. *Сычавішнік адрозьнівыіцца ат вікі тым, што ён драбней і ў яго драбнейшыя лісткі.* Пірагова Мсцісл.

СЫЧАС, *прысл.* Зараз. *Ну, турбуйся — сычас паедзім с табой.* Маластоўка Краснап.

СЫЧЫК, -а, *м.* Скрутак лык. *Размачы сычык, будзім увечыры лапці плесьць.* Юр-каўка Крыч.

СЫШКВАРЫНЫЙ, *прым.* Спечаны [сасмажаны]. *Тый кусок сала сышкварыный, нясі другей.* Пірагова Мсцісл.

СЫШКВАРЫЦЬ, *дзеясл.* Спячы [сасма-жыць]. *Сышквар ты к блінам сала.* Вітрунь Касцюк.

СЫШЧЫПНУЦЬ, *дзеясл.* Сашчыпнуць. *Ішоў праз гарод ды сышчыпнуў перынку цыбулі, дык і тае жалка стала.* Гусарка Клім.

СЫШЧЫТАЦЬ, *дзеясл.* Палічыць. *Сы-шчытай, колькі мы сяньні снапоў ныжалі.* Машавая Бялынкав. *Ніхай-тка зачэпіць мя-не, дык і зубоў ні сышчытая.* Палуж Кра-снап.

СЫЯН, -а, *м.* Саян. *Я купіла сабе сіццу ны сыян, пашыю з ліхвымі, біс кыбата.* Арцёмаўка Міласл. *Баба надзела сыян.* Во-саў Краснап.

СЬВЕДКА, -і, *ж.* Сведка. *У судзе мой сьведка пыказывыў праўду.* Слаўнае Мсцісл.

СЬВЕЖЫЦЦА, *дзеясл.* [Канаць], дахо-дзіць. *Як калоў кыбына — абкрывяніў ён мяне ўсяго, а ўсё ні сьвежыцца!* Пірагова Мсцісл.

СЬВЕЖЫЙ, *прым.* Свежы. *Я люблю сьвежы хлеб — ён смашнейшы.* Нізькі Кас-цюк. *Сьвежае рыльлё, а ўжы пырасло тра-вою.* Лешчынка Мсцісл.

СЬВЕРБ, -ы, *ж.* Сверб. *Ат бруднай ва-ды на целі пыднілася сьвербъ.* Сохана Мсцісл.

СЬВЕРДЗІЛ, -дла, *м.* Свердзел. *Сьвер-дзіл дужа затупіўся — ні круціць ані.* Таш-на Клім. *Учора, круціўшы дыркі, Цімох тоў-стый сьвердзіл зламіў.* Добрае Мсцісл.

СЬВЕРЬДЛІЦЬ, *дзеясл.* Свідраваць. *Тупый сьверьдзіл, ім дубовыю вось сьверьд-ліць трудна — ні вазьмець.* Горкі Краснап.

СЬВЕТ, -у, *м.* 1. Сусвет. *Сьвет божый вялік, ні зямлёй кынчаіцца.* Касцюковічы. *Такей ныхабы, як ён, і сьвет ні бачыў.* Ма-ластоўка Краснап. *Вучыціль, як відаць, пы-кылясіў па сьвету.* Палуж Краснап. 2. Свет, святло. *Ні толькі сьвету, што ў акне, зы ак-ном яшчэ болій.* Клясін Краснап.

СЬВЕТАЧ, -а, *м.* [Светач], прылада, у якую ўстаўляюць запаленую лучыну. *Сьве-тач зынадта высокі, нада яго зьдзелыць ні-жы.* Барысавічы Клім.

СЬВЕТКА, -і, *ж.* Сведка. *Я быў у яго сьветкый на судзе.* Дзянісавічы Навазыбк.

СЬВЕТУШ, -а, *м.* Светач. *Устаў лучыну ў сьветуш.* Хвёдараўка Краснап.

СЬВЕТЫЧ, -а, *м.* Светач. *А дзе йта сьве-тыч? Пыстаў лучыну ў сьветыч, ато нічога ня відна — ні гаріць іна ны краю стыла.* Ар-цёмаўка Міласл.

СЬВЕЧКА, -і, *ж.* Свечка. *Зыпалі сьвеч-ку, нада ў погріб сходзіць пы капусту.* Ба-еўка Крыч.

СЬВЕКАР, -кра, *м.* Свёкар, бацька му-жа. *Сьвёкар яшчэ сяк-так, а ўжо сьвякрова, дык проста ведзьма злая.* Гусарка Клім. *Сьвякрова злая, аднакыва, як і сьвёкар.* Парадзіна Мсцісл.

СЬВІДЗЕЦІЛЬ, -я, *м.* Сведка. *У судзе пычалося апытаньня сьвідзеціляў.* Пірагова Мсцісл. *Ён ні атрякецца ат етыга. Я — сьві-дзеціль, што ён кызаў.* Арцёмаўка Міласл.

СВІДЗЕЦІЛЬСТВА, -а, *н.* Пасведчанне. *Трэба ўзяць у доктыра сьвідзеліцьства аб здароўі.* Сохана Мсцісл.

СЬВІНАКРОП, -у, *м. бат.* Свінакроп, тарыца. *У ільне многа сьвінакропу зывялося, нада палоць.* Палуж Краснап.

СЬВІНАРНІК, -а, *м.* Свінушнік, хлеў для свіней. *Пыкармі сьвіньней і зыгані іх у сьвінарнік.* Ганнаўка Клім.

СЬВІНКА, -і, *ж.* Свінка. *Бацька купіў сьвінку ны развод. Парсюк прышоў, а сьвін-кі німа, нада беч пушукаць, ато ноды воўк нойдзе.* Палуж Краснап.

СЬВІННАРКА, -і, *ж.* Свінушнік, хлеў для свіней. *Із сьвіннаркі вывезлі гной.* Ма-люшын Краснап.

СЬВІННАРЫК, -а, *м.* Свінушнік, хлеў для свіней. *Усяго тае і будыніны ў яго, што хата ды сьвіннарык, і той пусты, бо сьвінь-ней у яго німа.* Палуж Краснап.

СЬВІНТУХ, -а, *м.* Свінтух [свінтус]. *Сьвінтух ты! Хто гэтак робіць? То ж стыд-на так дзелыць.* Хвёдараўка Краснап.

СЬВІНЦЮГ, -а, *м. бат.* Сівец. *Во трыва дык трыва — адзін сьвінцюг, ніяк кыса ні бя-рець.* Слаўнае Мсцісл.

СЬВІНЬНЯ, -і, *ж.* 1. Свіння. *Сьвіньня ўсё зьела, а парсючку і німа чаго есьць.* Ушакі Чэрык. *Сьвіньні любяць макруху, як нарвеш, дык во ядуць.* Барысавічы Клім. 2. *бат.* Свінка, грыб. *Ныбрала кошык сьвінь-няў, думыю пысаліць.* Хвёдараўка Краснап.

СЬВІРДЛЫВАЦЬ, *дзеясл.* Свідраваць. *Ета ж падумыць; узяў сьверьдзіл і дывай сьвірьдлываць лаўку — здуреў хлопіц.* Вы-сокі Бор Краснап.

СЬВІРЧАЦЬ, *дзеясл.* Свірчэць. *Юрок сьвірчыць бяз конца, пэўна, будзіць холад.* Пархвёнава Мсцісл.

СЬВІРЭПІЦА, -ы, *ж. бат.* Свірэпіца, свірэпка. *Па ўсёй пахані расьце сьвірэпіца.* Бялішчана Мсцісл.

СЬВІРЭПКА, -і, *ж.* Свірэпка, свірэпіца. *У вайсе многа сьвірэпкі.* Хвёдараўка Крас-

нап. *Як будзеш палоць пышаніцу, усю сьвірэпку прынясі каровым.* Пірагова Мсцісл.

СЬВІСНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Свіснуць, засвістаць. *Узяў пішчык ды як сьвіснуў, так коні й скокнулі.* Палуж Краснап. 2. Выццяць пугаю, дубцом. *Сьвіснуў пугаю пы кані і паехыў.* Варанёва Крыч. 3. Украсці. *Сьвіснуў мех с-пыд гылавы.* Хвёдараўка Краснап.

СЬВІСТАЦЬ, *дзеясл.* 1. Свістаць. *Тата, тата, каб ты чуў, як сёньня добра шпак сьвістаў!* Новыя Капачы Мсцісл. 2. Хадзіць панoccам. *Ахрэм пабег ужо на двор сьвістаць — панос у яго.* Пархвёнава Мсцісл. 3. Біць нагою, брыкаць.

СЬВІСТОК, -тка, *м.* Свісток, свістулька. *У Сьціпана ёсьць сьвісток, во громка сьвішчыць.* Шарэйкі Касцюк.

СЬВІСЬ, *выкл.* Свісь. *Я йду, а ён пайшоў здзаду ды сьвісь у мяне над вухым — я аж пыдскочыў, спужаўшысь.* Восаў Краснап.

СЬВІСЬЦЁЛКА, -і, *м.* Свістулька. *Бычкі йграюць у лучкі, а цёлкі ў сьвісьцёлкі, а быраны ў ырганы, а коні ў гармоні.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

СЬВІТА, -ы, *ж.* Світка, верхняя вопратка. *Цётка надзела сьвіту.* Азерцы Клім.

СЬВІТАНЬНЯ, -я, *н.* Світанне. *Перід сьвітаньнім зыгарелысь хата, нійначый нехта путпаліў.* Крывы Лес Росл.

СЬВІТАЦЬ, *дзеясл.* Світаць, віднець. *Ужо сьвітаць стала, як мы прыехылі двору.* Іванаўка Хоцім.

СЬВІТКА, -і, *ж.* Світка, верхняя вопратка з даматканага сукна. *Бацька надзеў сваю сьвітку і пайшоў з двыра.* Ганнаўка Клім. *Дзед сяньні новую сьвітку надзеў.* Машавая Бялынкав. *Тэй самы, што ўсё ў чорнай сьвітцы гуляіць.* Вітрунь Касцюк. *Мыя сьвітка ўжу сусім знасілась.* Залесавічы Крыч.

СЬВІТКУВАЦЬ, *дзеясл.* Святкаваць. *Усі пыряшылі сьвіткуваць Першыя мая.* Слаўнае Мсцісл.

СЬВІЧА, -ы, *ж.* Свечка. *З сьвячою нільзя хадзіць у хлеў, ато пыжар можна зьдзгілыць.* Ясенка Краснап.

СЬВЯДОМЫЙ, *прым.* Свядомы. *Прякоп — чылавек сьвядомый: ён усё знаіць і пыраіць, што дзелыць.* Лютня Краснап.

СЬВЯКРОВА, -ы, *ж.* Свякроў, мужава маці. *У Зоські тыкая сьвякрова, што проста страх: поідам есьць — ныдаела.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Ці ж добрыя твыя сьвякрова? Пакуль што нічога — ня сварымся.* Радзіонаўка Мсцісл.

СЬВЯКРОВЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад свякрова. *О, мыя сьвякровычка ласкывыя: лёстычкымі дух выміць.* Вітрунь Касцюк.

СЬВЯКРУХА, -і, *ж.* Свякроў. *Мыя сьвякруха сярдзітыя, таго й глядзі, што-дасць у зубы чыпялою.* Канічы Касцюк. *Сьвякруха ў мяне добрыя, але сьвёкар — гад.* Мсціслаў.

СЬВЯРБЕЦЬ, *дзеясл.* Свярбець. *Нешта цела сьвярбіць, трэба б лазьню прытапіць ды памыцца.* Дубеец Касцюк. *Нешта правыя вока сьвярбіць, плакыць, відна, прыдзецца.* Лешчынка Мсцісл. *У мяне сьвярбіць ныга — кымарцы пыкусалі.* Хоцімск.

СЬВЯРБОТА, -ы, *ж.* Сверб. *Я ці абстрыкыла ногі ці кымары пыкусалі, толькі тыкая сьвярбота, што аж да крыві нычысала.* Арцёмаўка Міласл.

СЬВЯРДЗЁЛЫК, -лка, *м.* Памянш. ад свердзел. *Андрэй пракруціў сьвярдзёлкам дзірку ў дошцы.* Гарбавічы Касцюк. *Тут долытым ні гадзіцца, тут сьвярдзёлык нада, толькі сьвярдзёлкым можна туть прысьвярдліць дзірку.* Арцёмаўка Міласл. *Сьвярдліўшы дзірку, я злымаў сьвярдзёлык.* Хвёдараўка Краснап.

СЬВЯРДЛІЦЬ, *дзеясл.* Свідраваць, круціць дзірку. *Ён узяў сьвярдзёлык і пычаў сьвярдліць дзірку ў стаўбцы ны граблі.* Новы Дзедзін Міласл.

СЬВЯРЬБЁЖ, -у, *ж.* Сверб. *Пы ўсяму целу сьвярьбёж пышла, проста хуць цела рязыдрять.* Сабалеўка Клім.

СЬВЯРЬБОТА, -ы, *ж.* Сверб. *Сьвярьбота ў цібе ны языку — пумуўчаць ні можыш.*

СЬВЯРЬДЗЁЛЫК, -лка, *м.* Свердзел. *Сьвярьдзёлык наш у дзядзькі, пубяжы прынясі — нада дзіркі пасьвідріваць.* Крывы Лес Росл.

СЬВЯТА, -а, *н.* Свята, непрацоўны дзень. *У сераду будзе сьвята Першыга мая.* Пячонкі Раснян. *К сьвяту трэба ў хаце мост памыць.* Смолькаўская Буда Бялынкав.

СЬВЯТЛІЦА, -ы, *ж.* Святліца, чысты пакой. *Гысьця пыклалі спаць у сьвятліцы.* Забычанне Касцюк.

СЬВЯТЛО, -а, *н.* Агонь, асвятленне. *Во ўжо й цёмна. Палі-ка сьвятло, ато нічога ні відаць.* Старае Сяло Мсцісл.

СЬВЯТОШНЫЙ, *прым.* Святочны. *Што ты ўжо свой сьвятошный нырад у будзін дзень носіш?* Слаўнае Мсцісл.

СЬВЯТЦЫ, -оў, *мн. л.* Святыя. *Ні так бог, як сьвятцы яго.* Брылёўка Краснап.

СЬВЯТЫЙ, *прым.* Святы. *Сьвяты Ільля нырабіў гнільля.* Пархвёнава Мсцісл. *Сьвятоя Васільля — людзім красільля.* Маластоўка Краснап.

СЬВЯЦЕЦ, -нца, *м.* Светач [лучнік]. *Зыпалі лучыну і ваткні яе ў сьвяцец.* Віхраны Мсцісл.

СЬВЯЦІЛА, -а, *н.* Святло, агонь. *Рысклaдзі сьвяціла, ато цёмна.* Хоцімск.

СЬВЯЦІЦЬ, *дзеясл.* Свяціць. *Месік будзіць сьвяціць усю ноч.* Прыпечына Калініншчына. *Пакуль месік сьвеціць, дайду ды дзярэўні.* Касцюковічы.

СЬКІБКА, -і, *ж.* Скібка, адрэзаны тонка кавалак хлеба [луста]. *Атреж мне ськібку хлеба.* Дубеец Касцюк. *Хлопцу атрезылі ськібку хлеба, а яму нада бальшэй скрыль атрезыць, ато што яму есьць ету ськібку.* Арцёмаўка Міласл. *Зьеў ськібку хлеба і яшчэ просіць.* Высокі Бор Краснап.

СЬКІБЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад скібка. *Ось я цібе то-о-онінькую ськібычку атрежу, хочыш?* Гарадок Міласл.

СЬКІДАЦЬ, *дзеясл.* 1. Скідаць. *Ськідай снапы на ток.* Пархвёнава Мсцісл. 2. Спускаць, змяняць. *Калі каню тры гады, дык ён ськідая ваўчкі* (зубы). Хвёдараўка Краснап.

СЬКІДКА, -і, *ж.* Скідка. *З усяе пакупкі ён зьдзелыў ськідку толькі восім грівін.* Баеўка Крыч. *Я рызызнаў, што з прыдналогу будуць дываць ськідку.* Цівецкая Краснап.

СЬКІДОК, -дка, *м.* Скок убок. *Заіц бег пряма, а тады зьдзелыў ськідок, а сыбакі ні*

*пасьпелі пывярнуць за ім, дык ён і ўцёк.* Хвёдараўка Краснап.

СЬКІДЫВАЦЬ, *дзеясл.* Скідаць, скідваць. *Лезь ны цапкі, будзіш снапы сьскідываць.* Вародзькава Мсцісл.

СЬКІДЫШ, -а, *м.* [Выкідыш], неданошаны, выкінуты плод. *Каровы кылянулі нашу карову, дык іна сьскінула: сьскідыш-цялёнычык ужу бальшэй, у шэрсьці.* Арцёмаўка Міласл.

СЬКІНУТЫЙ, *прым.* Скінуты. *Стыкан, сьскінутый сы стыла, ні разьбіўся — во крепкій.* Арцёмаўка Міласл. *У яе ўжу другей сьскінутэй дзіцёнык, штоб іна да дохтыря пышла, мо што даў бы.* Бяседавічы Хоцім.

СЬКІНУЦЦА, *дзеясл.* Скінуцца, упасці. *Міска сьскінулыся сы стыла і разьбілась.* Нізькі Касцюк. *Грабёнка сьскінулась с крышы.* Хвёдараўка Краснап.

СЬКІНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Скінуць. *Ськінь там снапоў колькі аўса, нада зрэзыць конім, ато рэзь ужо ўся.* Парфёнава Мсцісл. 2. Радзіць неданошаны плод. *Ня бей дужа жарёбную кабылу, ато іна можыць сьскінуць і прыпадзець жырабёнык.* Арцёмаўка Міласл.

СЬКІПАЦЬ, *дзеясл.* Шчапаць, калоць трэскі, лучыну. *Ськіпаў лучыну ды скабку зыгнаў у руку.* Юркаўка Крыч. *Наськіпай падтопы, ато печка ні рызгыраецца.* Старае Сяло Мсцісл.

СЬКІПЕЦЬ, *дзеясл.* 1. Закіпець. *Сымувар ужу сьскіпеў, зыварвай чай.* Паўлавічы Клім. 2. Моцна зазлаваць. *Як угледзіў, што коні ў жыці, дык аж сьскіпеў ад злосьці.* Арцёмаўка Міласл. 3. Загінуць, памерці [і зайсціся ў плачы]. *Зымаўчы, ато сьскіпіш ны нажы.* Бардзіч Краснап.

СЬКІСНУЦЬ, *дзеясл.* Скіснуць. *Выпі ета мылако, ато яно сьскісьніць.* Папоўшчына Мсцісл.

СЬКЯПАЦЬ, *дзеясл.* Шчапаць, калоць трэскі, лучыну. *Ськяпаў, ськяпаў, а ціпла німа чым разьвесьць.* Ушакі Чэрык.

СЬЛЕГА, -і, *ж.* Сляга, кладзь. *Пыд лімягі ці сьлегі нада класьць заземіну.* Хвёдараўка Краснап.

СЬЛЕД, -у, *м.* След. *Чый ета сьлед ны сьнягу, воўчы ці сыбачы?* Зоры Чэрык. *Ны дваре завірюха, што сьледу ня відна.* Слаўнае Мсцісл. *Цюхаіць усьлед, як шчанё.* Бродкі Крыч.

СЬЛЁЗНА, *прысл.* Слёзна. *Чаго, татычка, сьлёзна плачыш?* Сохана Мсцісл.

СЬЛІБА, *прысл.* Хіба [і каб]. *Сьліба ты ня быў там?* Горкі Краснап. *Так ні дыстаць, сьліба крючок такей зьдзелыць, тады зычапіў і выцігнуў.* Палуж Краснап.

СЬЛІВА, -ы, *ж. бат.* Сліва. *У нашым саду растуць сьлівы і грушы.* Пірагова Мсцісл.

СЬЛІВЕНЬ, -ўня, *м.* Слімень, медзяніца-гадзюка. *Па етый пожні нільзя хадзіць босыму, можыць сьлівень укусіць — тут іх многа.* Хвёдараўка Краснап. *Ні хадзі ў кусты, там сьліўні водзюцца — укусіць каторый, біда будзіць.* Бардзіч Краснап.

СЬЛІГА, -і, *ж.* Сляга, кладзь, доўгае бервяно, якое кладуць на сохі. *На гумно ўсьцягнулі сьлягу.* Машавая Бялынкав. *Сьліга злымалысь, і стріха аб'ехыла.* Маластоўка Краснап.

СЬЛІГАВІНА, -ы, *ж.* Сляга, кладзь. *Сьлігавіна злымалыся, і стрыха забурылася.* Мсціслаў. *Сьлігавіна зломіцца, і крыша пыляціць.* Дуброўна.

СЬЛІЗКА, *прысл.* Слізка. *Сьлізка хадзіць — аблій ны дварэ.* Ясінь Краснап. *Лі калодзіжа так сьлізка, што ні падыйсьці.* Прусіна Касцюк.

СЬЛІЗНУЦЦА, *дзеясл.* Паслізнуцца. *Лі калодзіжа столькі намёрзла, што няхітра сьлізнуцца й гылаву разьбіць.* Тур'я Краснап.

СЬЛІМАК, -а, *м. заал.* Слімак, смоўж. *На грыб успоўз сьлімак.* Сохана Мсцісл. *Сьлімакі ўвесь грыб зьелі.* Пухнава Расиян.

СЬЛІПЫТА, -ы, *ж.* Слепата. *Сьліпыта ны яе нейкыя ныпала: нічога ня відзіць пыд ныгамі.* Арцёмаўка Міласл.

СЬЛІСАК, -а, *м.* Жалезка ў клямцы, якая прасунута праз дзверы і пры націску падымае зашчапку. *Націсьні сьлісак, тады адчыніш дзьверы.* Аршаншчына.

СЬЛІУКА, -і, *ж.* Сліўка. *Сьліўка, лі гумна што, ужу зацьвіла.* Гусарка Клім. *Яблыкі летнія ўжу пасьпелі, скора і сліўкі пасьпеюць.* Арцёмаўка Міласл. *У нашым саду растуць тры сьліўкі.* Пірагова Мсцісл.

СЬЛІЧНЫЙ, *прым.* Прыгожы. *Матруна — сьлічныя дзеўка, іна ў дзеўках ні засядзіцца.* Палуж Краснап. *Чыя ета тыкая сьлічныя дзеўка?* Аўчынец Краснап.

СЬЛІШЧА, -а, *н.* Сцелішча, месца, дзе сцелюць лён. *Пойдзім на сьлішча, пылядзім ільну.* Хвёдараўка Краснап.

СЬЛЮНЯ, -і, *ж.* Сліна. *Чаго ў цябе з рота сьлюня цякець?* Канічы Касцюк.

СЬЛЮШКІ, -шак, *мн. л.* Дзіцячая гульня, крэглі. *Дывайця гуляць у сьлюшкі.* Хвёдараўка Краснап.

СЬЛЯДОК, -дка, *м.* 1. Памянш. ад след. *Лядзі, якія маленькія сьлядкі, мусіць быць, ласычка прабегла.* Стары Дзедзін Міласл. 2. Дарожка, сцежачка. *Сьлядок праз жыта ёсьць, ныцяньні ды самыга лесу, па ім і пайдзём.* Барысавічы Клім. *Няма там дарогі, там толькі сьлядок адзін, ды й таго ня знойдзіш у траве.* Пірагова Мсцісл.

СЬЛЯПЕНЬ, -пня, *м. заал.* Сляпак. *Вадні й сьляпні як абселі кыня, дык хоць гвалт крычы.* Хвёдараўка Краснап. *Сьляпень надта больна кусаіцца.* Юркаўка Крыч.

СЬЛЯПУН, -а, *м.* Сляпы. *Во сьляпун! Стаіць і ні бачыць, што дзіцёнык пад кыня лезіць.* Дзянісавічы Навазыбк.

СЬЛЯПУЮЧЫ, *прысл.* Быўшы сляпому. *Ні салодкыя жыцьцё — хадзіць сьляпуючы прасіць хлебца. Дренна жыць сьляпуючы.* Палуж Краснап.

СЬМЕЛА, *прысл.* Смела, рашуча. *Сьмела йдзі к етыму аблыкату: добрый зьдзялец зь яго.* Тур'я Краснап. *Нада сьмела работыць, нечыга там кіснуць.* Пірагова Мсцісл.

СЬМЕЛЫЙ, *прым.* Смелы, адважны. *Ён у мяне сьмелый хлопчык, нічога не пужаіцца.* Пірагова Мсцісл. *Яна тыкая сьмелыя — адразу пышла да ныччальніка.* Пухнава Раснян.

СЬМЕРЦЬ, -і, *ж.* Смерць. *Прыдзець калі сьмерць, дык пямрэш, ат яе, брат ні аткупісься.* Юшкі Мсцісл. *Аўдоцьці на сьмерць пашылі сарочку с намёткі.* Цірэні Раснян.

СЬМЕТАНА, -ы, *ж.* Смятана. *Зьнімі з*

*гырлача сьметану, а тады еж мылако.* Пірагова Мсцісл.

СЬМЕ́ТНІК, -а, *м.* 1. *заал.* Смяцюх, аўсянка (птушка). *Сьметнік такей, як вірябей, толькі с чубым і трошкі большый зы віріб'я.* Аляксандраўка Краснап. 2. Месца, куды выкідаюць смецце. *Што ты сьмяцьцё кыла парогу кідаіш, пряма сьметнік тут зьдзелыла.* Арцёмаўка Міласл. *На сьметніку расьце дурнып'ян.* Парадзіна Мсцісл.

СЬМЕХ, -у, *м.* Смех. *Ну ды чаго етый ваш сьмех, кылы чаго вы сьміяцёся?* Машавая Бялынкав. *Ішоў тут некій хрант, дык як шлёпніцца ў гразь — во сьмеху было.* Касцюковічы.

СЬМЕ́ШНА, *прысл.* Смешна. *Чаго йта вы там сьміяліся? Сьмешна было, дык і сьміяліся.* Дзеражна Касцюк.

СЬМІКАЛІ́СТ, -а, *м.* Цямлівы чалавек. *Ох, брат, ты — сьмікаліст!* Хвёдараўка Краснап.

СЬМІ́РНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Рахманасць, спакойнасць. *Ета конь дужа харошый, яго адна сьмірнысьць чаго стоіць: яго ж дзіцёнык запутыіць і зывядзець, куды нада.* Арцёмаўка Міласл.

СЬМІ́РЬНА, *прысл.* Сціпла, нясмела, скромна. *Хлопіц крій бог які, стаіць сьмірьна і да людзей баіцца падыйсьці.* Цівецкая Краснап.

СЬМІТА́НА, -ы, *ж.* Смятана. *Як мылако адстоіцца і начнець ськісаць, дык наверсі сьмітана зьбіраецца.* Нізькі Касцюк. *У нас быў мурластый кот, дык, бывала, ні аднаго гырлыча ат яго ні схуваіш — найдзіць і сьмітану паесьць.* Бяседавічы Хоцім.

СЬМІЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Смяяцца. *Закрый кутак, ато усі сьміяцца будуць.* Хвёдараўка Краснап.

СЬМЯ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Чадзіць, дыміць. *Залі ты тэя махныткі ў печы, ато будуць сьмядзіць.* Касцюковічы.

СЬМЯРДЗЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Смярдзець. *Мяса сьмярдзець пачынаець — яго нада прамыць ды пысаліць.* Хоцімск. *Дзесь гаріць, чуеш, як сьмярдзіць.* Касцюковічы.

СЬМЯРДЗЮ́К, -а, *м.* Смярдзюк. *Сьмярдзюк ты, к табе й прыступіцца брыдка.* Хвёдараўка Краснап.

СЬМЯРО́ТНІК, -а, *м.* Адзежа, якую адзяваюць нябожчыку. *Яму ўжо й сьмяротнік сшылі, а ён узяў ды ачуняў.* Хвёдараўка Краснап.

СЬМЯРО́ТНЫЙ, *прым.* 1. Чалавек пры смерці. *Яму ўжо дохтырь ні паможыць, ён сьмяротный, пупа нада прівезьць.* Клясін Краснап. 2. На выпадак смерці. *Я сабе сьмяротную сарочку ўжу пашыла, штоб было ў чым пылажыць, як памру.* Боханы Росл.

СЬМЯХУ́Н, -а, *м.* Смяхун, чалавек, што любіць смяяцца [і пасмяшыць]. *Нікіпарь такей сьмяхун, што ніжывога рісьсьмяшыць, зь ім ні засьнеш.* Балакеры Мсцісл.

СЬМЯЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Смяціць, рабіць смецце. *Ні сьмяці ты пы хаці, толькі пыдміла, так ён і зноў настругаў на мост.* Зоры Чэрык.

СЬМЯЦІ́ШЧА, -а, *н.* Сметнік. *Сьмяцішча ны самый дарозі зьдзелылі, ня могуць яны аднесьць сьмяцьцё далій, а проста ны дарогу валюць.* Касперка Міласл.

СЬМЯЦЬЦЁ, -я, *н.* Смецце. *Сьмяцьцё выляіцца пыд ныгамі, а падмесьць ніхто ні хочыць.* Іванаўка Хоцім. *У хаці було ні прібрана, ні падмеціна, а сьміцьця — пы калена.* Арцёмаўка Міласл.

СЬМЯЦЬЦІ́ШЧА, -а, *н.* Сметнік. *Тапор кінуў ны сьмяцьціішчы.* Хвёдараўка Краснап.

СЬМЯЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Смяяцца. *Вышла замуж за нідаростка — усі сьмяюцца.* Палуж Краснап. *Сьмяецца, скаліць зубы, а чаго — каб спытаць?* Бродкі Крыч.

СЬНЕГ, -у, *м.* Снег. *Сёліта рана сьнег ныпадаў — павінін яшчэ рыстаць.* Ушакі Чэрык. *Патрэбен ты мне, як леташні сьнег ны градых.* Паўлавічы Клім. *За ныч нымяло столькі сьнегу, што й дзвярэй ні 'тчыніць.* Дубровіцы Клім.

СЬНЕ́ДАНЬНЕ, -я, *н.* Сняданне. *Сёньня на сьнеданьне была дужа смашныя крупеня, зварыця такую і на полудзень.* Бель Мсцісл. *На сьнеданьне хызяйка пыдала яешню з блінамі.* Сохана Мсцісл.

СЬНЕ́ДАЦЬ, *дзеясл.* Снедаць. *Хадзіця, дзеці, сьнедаць, ужо бліны гатовы.* Куркаўшчына Мсцісл. *Бягі пакліч бацьку, ніхай ідзе сьнедаць, бо бліны прастынуць.* Хоцімск.

СЬНІГА́, -і, *ж.* Снег. *Сьніга вялікыя ныпала. Зімою зы сьнягою, а вясною зы вадою, так і ні зьбярэсься прыехыць ды вас.* Нова-Ельня Краснап.

СЬНІДА́НЫК, -нка, *м.* Снеданне. *Ны сьніданык маці зварыла зацірку.* Палуж Краснап.

СЬНІДА́НЬНЯ, -я, *н.* Снеданне. *Матка вытыпіла печку і пынісла сьніданьня жнеям.* Пірагова Мсцісл.

СЬНІ-ТРЫВА́, -ы, *ж. бат.* Сон-трава. *Сьні-трыва расьцець на межах і на лузе. Невысокій туўстуватый сьцябель, цьвіцець сінім ці ілавым цьветам.* Пірагова Мсцісл.

СЬНЯДА́НЬНЯ, -я, *н.* Снеданне. *Нясі ў поля бацьку сьняданьня.* Смолькаўская Буда Бялынкав.

СЬНЯЖО́К, -жку, *м.* Памянш. ад снег. *Зыпытрашый сьняжок — буря будзя ноччу.* Хвёдараўка Краснап.

СЬПЕВА́КА, -і, *м.* Спявак. *Ён жа ў нас такі сьпевака — якую хочаш песьню сьпяець.* Ушакі Чэрык.

СЬПЕВА́НЬНЕ, -я, *н.* Спяванне. *Тваё сьпеваньне мне ўжо абрыдла — каб жа добра пела, ато пішчыць неяк.* Ушакі Чэрык.

СЬПЕ́РАДЗІ, *прысл.* Наперадзе [спераду]. *Сьперадзі воза бег сыбака, а ззадзі — жырыбя.* Маркаўка Хоцім.

СЬПЕ́СЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Распесціць. *Дзіцёнка балывылі, балывылі, пакуль сьпесьцілі.* Хвёдараўка Краснап.

СЬПЕЦЬ, *дзеясл.* Заспяваць. *Я прашу цябе сьпець родную беларускую песьню.* Слаўнае Мсцісл.

СЬПЕЎ, -ву, *м.* Спеў, матыў. *Песьня харошыя, толькі ты ні на тэй сьпеў яе пяеш.* Аляксандраўка Краснап.

СЬПЕХ, -у, *м.* Спех, паспешнасць. *Паціху, ні сьпяшы; сьпех — людзям сьмех.* Пухнава Раснян.

СЬПЕ́ШНА, *прысл.* Спешна, хутка [паспешліва]. *Я сьпешна справілыся з работый і лігла атдыхнуць.* Лешчынка Мсцісл.

**СЬПІВАКА**, -і, *ж.* Спявак. *Сьпівака сь цябе благій — ні аднэй песьні да кынца ні дывідзеш.* Малюшын Краснап.

**СЬПІЛЯСНУЦЦА**, *дзеясл.* Скалыхнуцца [усплёснуцца]. *Штурхнуў вядром у вушак — і выда сьпілясынулыся.* Палуж Краснап.

**СЬПІНА**, -ы, *ж.* Спіна. *У мяне баліць сьпіна: ні магу нахіліцца.* Гібалы Касцюк. *Цягнуў мех, ды яшчэ кажух надзеў, дык так упрэў, што сьпіна мокра стала.* Старае Сяло Мсцісл.

**СЬПІРВА**, *прысл.* Перш, раней. *Сьпірва ты прідзі ка мне, тады я приду.* Лешчынка Мсцісл.

**СЬПІЦА**, -ы, *ж.* 1. Спіца. *Сьпіца ў катку злымалысь. Сідар націсаў дубовых сьпіц у каток.* Ташна Клім. 2. Касцяное шыла для падплятання лапцей. *Ні бяры ты сьпіцы, я пляту лапці, дык іна мне патрэбна.* Барысавічы Клім.

**СЬПІЦЦА**, *дзеясл.* Спіцца, прапіць усё. *Ён жа так сьпіўся, што і ашмётка ні стоіць.* Каробчына Мсцісл.

**СЬПІЧАК**, -а, *м.* Завостраны кій. *Етым сьпічаком можна кішкі выпусьціць.* Горкі Краснап. *Узяў нейкій сьпічак і дывай пароць сыбаку.* Вітрунь Касцюк.

**СЬПІЧКА**, -і, *ж.* Запалка, сярнічка. *Сьпічкі ны пяколцы ліжаць.* Тэкліна Шумяц. *У хаці было цёмна, дык я вошчупку чуць нышла сьпічкі.* Слаўнае Мсцісл.

**СЬПЛЯСЬНЕЛЫЙ**, *прым.* Збраснелы. *Квас у дзежкі ўжу старій, сьплясьнелый, нада выліць і зывaріць сьвежыга.* Высокі Бор Краснап.

**СЬПЯВАЦЬ**, *дзеясл.* Спяваць. *Ны вясельлі бабы песьні сьпіваюць.* Міцькаўшчына Мсцісл.

**СЬПЯКІЦЬ**, *дзеясл.* Спячы. *Нада сьпякіць бабку.* Касперка Міласл.

**СЬПЯКОТА**, -ы, *ж.* Спякота, гарачыня. *Целый тыдзень стаіць тыкая сьпякота, што нельга трываць: усё павысыхла.* Маркаўка Хоцім. *У такую сьпякоту ні ўедзіш многа.* Палуж Краснап.

**СЬПЯЦІЦЦА**, *дзеясл.* Звар'яцець. *Глядзі, ён сьпяціўся з вума.* Хвёдараўка Краснап.

**СЬПЯЧЫ** [сьпеч], *дзеясл.* Спячы. *Заўтрі нада хлеба сьпячы, ато ўвесь выходзіць.* Добрае Мсцісл. *Мама, сьпячы мне яешню.* Гарадок Расням.

**СЬСЕСЦА**, *дзеясл.* Ссесціся. *Як памылі плацьця, дык яно сьселыся.* Палуж Краснап.

**СЬСЕЧ**, *дзеясл.* Ссекчы, зрубаць. *Я толькі што сьсек дубок на вось, а тут лясьнік падыйшоў і тапор адыбраў.* Варо́дзькава Чэрык.

**СЬСЕЧЫНЫЙ**, *прым.* Ссечаны. *У лесі ліжаў сьсечыный тыпаром мыладзенькій дубок.* Арцёмаўка Міласл.

**СЬСІДАЦЦА**, *дзеясл.* Ссядацца. *Етый пыркаль будзіць сьсідацца, як яго памыіш. Ён дужа сьсідаіцца.* Ясенка Краснап.

**СЬСІКАНЬНЯ**, -я, *н.* [Сяканне], сціnanне. *Будзякоў сьсіканьнем ні зьністожыш, іх з кырянём выкапывыць нада, ат коріня ён уноў расьцець.* Палуж Краснап.

**СЬСІКАЦЬ**, *дзеясл.* [Ссякаць], сцінаць. *Ты сьсікай кычаны, а я буду знасіць у кучу.* Меліхава Смал.

**СЬСІЛЯЦЬ**, *дзеясл.* Перамагаць. *Як бы там ні было, а вельмі цяжка сьсіляць яго ўпартысць — заўсёды ён стыраіцца пыставіць ны сваім.* Ушакі Чэрык.

**СЬЦЕБАНУЦЬ**, *дзеясл.* Сцебануць, выцяць. *Кылі сьцебану вот пугый, дык не палезіш больш.* Татаршчына Мсцісл.

**СЬЦЕЖКА**, -і, *ж.* Сцежка. *Прыз нашу пожню там сьцежку прыклалі.* Камароўка Крыч. *Праз луг да лесу сьцежка ёсьць, толькі там ні прайці — выда пыніла.* Іванаўка Хоцім.

**СЬЦЕКОЛЬШЧЫК**, -а, *м.* Шкляр, майстар, што ўстаўляе шыбы ў вокны. *Прыехаў сьцекольшчык, нада ўставіць балонку ў вакно.* Міцькаўшчына Мсцісл.

**СЬЦЕНКА**, -і, *ж.* 1. Сценка. *Сьценка ў пуні пахілілыся — шульля пагнілі, відна.* Пухнава Расням. 2. Вузкая дарожка паміж палеткаў. *З большыя дарогі, за лесым, адходзіць сьценка, якая дывядзець ды нашыга двыра.* Сохана Мсцісл.

**СЬЦЕНЬ**, -і, *ж.* Цень. *Пры захыдзі сонца сьцень даўжэіць.* Лапаціна Мсцісл. *Ета ж такей чылавек, што сьцені свае баіцца, ня то што.* Ханеўка Крыч.

**СЬЦЕП**, -і, *ж.* Стэп. *Як едзіш пы Украіне, дык з вагона, як вокым ськівуць, відна толькі сьцеп, а лесу таго дык німа нійдзе.* Слаўнае Мсцісл.

**СЬЦЕРЬПІЦЬ**, *дзеясл.* Сцярпець, вытрываць. *Ета баба — пупрысяка: усяго даволі меіць, а ня сьцерьпіць, каб ні пупрасіць. Яго так білі, што я ні знаю, як ён і сьцерпіў.* Слаўнае Мсцісл.

**СЬЦЕРЬПЛІВЫЦЬ**, *дзеясл.* 1. Урымсліваць, стрымліваць. *Яго нада лагодна сьцерьплівыць, ласычкымі, а біцьцем нічога ня зьдзелыіш.* Хвёдараўка Краснап. 2. Выцерпліваць, цярпець. *Болна яму, але сьцерплівыя, сьціснуўшы зубы, і ні ейкніць.* Бохаты Росл.

**СЬЦЕРЦІСЯ** [сьцерца], *дзеясл.* Сцерціся. *Васіль, ці ты бачыў, што ў цябе ў плузі пылазок сьцёрся?* Бязводзічы Мсцісл.

**СЬЦЕРЦЬ**, *дзеясл.* Сцерці. *Нашто ты сьцёр з дошкі, што было напісына — я ж табе ні кызаў сьцерць.* Макуліна Расням.

**СЬЦІБАЦЬ**, *дзеясл.* 1. Сцёбаць, біць пугаю або дубцом. *Кошка нылакысьціла пыд лаўкый, яе за ета прутым сьцібаць нада.* Іванаўка Хоцім. 2. Жаць [ці касіць] штонебудзь рэдкае. *Сяньні жыта было так рэдка, што сьцібала, сьцібала, ледзь трыццыць снапоў ныжала.* Хвёдараўка Краснап.

**СЬЦІБРЫЦЬ**, *дзеясл.* Украсці. *Сьцібрыў кусок хлеба.* Хвёдараўка Краснап.

**СЬЦІГАЦЦА**, *дзеясл.* Крычаць [аж выпроствацца]. *Датуль сьцігаўсь, пакуль ахрып.* Кокатава Мсцісл.

**СЬЦІНА**, -ы, *ж.* Сцяна. *Сьціна ўся рызвалілась, нада пыдпіраць.* Крычаў.

**СЬЦІНАЦЦА**, *дзеясл.* 1. Замярзаць [зацягвацца лёдам]. *Мароз вялікій: вада ў вядры ў сенцых пычыла сьцінацца.* Залачова Мсцісл. 2. Туляцца, хавацца. *Сьцінацца, бідняга, пы заўгольлю.* Кокатава Мсцісл. [3. Плакаць аж выпроствацца].

СЬЦІПА́Н, -а, *м.* Уласнае імя Сцяпан. *Сьціпан купіў нам пуўкварты гарелкі.* Палуж Краснап. *Добрый абароніц будзя сы Сьціпана.* Дзіснакіта Мсцісл.

СЦІРАГЧЫ́ [сьцярэ́жч], *дзеясл.* Сцерагчы, пільнаваць. *Пожню сьціраглі пы чырадзе.* Новы Свет Краснап.

СЬЦІ́РКА, -і, *ж.* Сцірка, гумка. *Дай, Сеня, сьціркі, падчысьціць нада — памыліўсь.* Шарэйкі Касцюк.

СЬЦІ́СЛА, *прысл.* 1. Сцісла [шчыльна, густа]. *Пішы сьціслa, каб усё пымісьціліся ны адным лісту.* Слаўнае Мсцісл. 2. Скупа, ашчадна. *Ён дужа сьціслa жывець: капейкі ні страціць абы навошта — усё з рашчотым, штоб нічога дарым у хызяйстві ні прыпала.* Арцёмаўка Мiласл.

СЬЦІ́СЛЫЙ, *прым.* Ашчадлівы [скупы]. *Сьціслый чылавек добря жывець.* Хвёдараўка Краснап.

СЬЦІ́СНУЦЬ, *дзеясл.* Сціснуць. *Здаройкаючыся, ён як сьцісьніць руку, дык ня вывыцерпіш — крыкнеш.* Негін Касцюк. *Сьцісні клешчы больш, ты дрэнна сьціснуў.* Хвёдараўка Краснап.

СЬЦІ́ХА, *прысл.* Сціха, паціху. *Наш сусед сьціха, але можыць больна ўкусіць.* Канічы Касцюк.

СЬЦІХАМІ́РЫЦЦА, *дзеясл.* Супакоіцца. *О! Ён ужо ні так казырыцца, як раней — сьціхамірыўсь трохі.* Ушакі Чэрык. *Яны за нешта сварілісь, а як я прішоў, дык пірісталі — сьціхамірілісь.* Арцёмаўка Міласл.

СЬЦІШО́К, -шка, *м.* Вершык. *Етый хлопчык дужа хырашо вучыцца, а сьцішок якей вывучыць ны паміць, дык ета ён ураз і рыскажыць вусна.* Арцёмаўка Міласл.

СЬЦЮДЗЁНА, *прысл.* Холадна. *Сяньні дужа сьцюдзёна ны дваре. Такей жа веціp з марозым.* Арцёмаўка Міласл. *Ны дварэ сьцюдзёна, трэба дбаць у хату.* Малюшын Краснап.

СЬЦЮДЗЁНЫЙ, *прым.* Халодны. *У крыніцы выда сьцюдзёна.* Петухоўка Чав.

СЬЦЮ́ДЗІНЬ, -ю і -дню, *м.* Квашаніна [студзіна]. *Нада зь етых цілячых ног зварыць сьцюдзінь.* Арцёмаўка Міласл. *Матка зь сьвіных ног і вушэй ныварыла сьцюдню.* Гібалы Касцюк. *Мама, ныварі ты з бyранія гылавы сьцюдню.* Слаўнае Мсцісл.

СЬЦЯБЕ́ЛЬ, -бля, *м.* Сцябло. *Мылычай — трыва тыкая, калі сырваць ў яго сьцябель, дык пойдзіць мылако — сок белый.* Пірагова Мсцісл.

СЬЦЯГЛЯ́СТЫЙ, *прым.* Пад колер цэглы. *У яго конь сьцяглястый масьці.* Палуж Краснап.

СЬЦЯГНО́, -а, *н.* Сцягно, кумпяк. *Зарэзыў цялёнка — усё прыдаў, толькі сьцягно сабе кінуў.* Хвёдараўка Краснап. *Ад усяго кыбына, што павосені білі, асталіся толькі два сьцягны, ато ўсё паелі.* Пірагова Мсцісл.

СЬЦЯГНУ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Скурчыць. *Сьцягнула мне ногі, што рызагнуць ні магу.* Хвёдараўка Краснап. 2. Украсці. *Жулік пыдлаўчыўся ды й сьцягнуў у бабы вoйну з воза.* Клясін Краснап.

СЬЦЯЖ, -у, *м.* Абшар. *На ўвесь сьцяж, як відаць, была засеіна ярына.* Ушакі Чэрык.

СЬЦЯКА́ЦЬ, *дзеясл.* Сцякаць. *Ны ўзвалку жыта ніколі ні 'тапреіць, бо выда сьцякае.* Башары Расням.

СЬЦЯРЭ́Ч, [сьцярэжч], *дзеясл.* Сцерагчы [берагчы], захоўваць. *Кнігі ніколі ня рві; кнігі трэба сьцярэч.* Маркаўка Хоцім.

СЭ́РЦА, -а, *н.* Сэрца. *Сэрца баліць, гледзячы на еткія пырядкі.* Нізькі Касцюк. *Агарнула сэрца жаль.* Сохана Мсцісл. *Нінадзёжнасьць у мяне на сэрцы: а што ды як ён кінець мяне?* Пірагова Мсцісл.

СЭ́СЫР, -а, *м.* Асэсар, вялікі чын. *Якей ты сэсыр знайшоўсь!* Горка Краснап.

СЭ́ХЛЯ, -і, *ж.* Печаная бульба. *У нас усе пастухі ў полі сэхлю пякуць, за бульбу на іх ніхто ня крычыць, што яны накыпаюць.* Барысавічы Клім.

СЮДО́Ю, *прысл.* Сюдою [сюды]. *Табе на Клімавічы трэ йсьці сюдою, край таго лесу.* Касцюковічы.

СЮДЫ́, *прысл.* Сюды. *Хадзі-ка сюды, малец!* Хоцімск. *Прынясі сюды мой глеч.* Тур'я Чэрык. *Сюды вуж пытачыўся.* Хвёдараўка Краснап.

СЮ́РГАЦЬ, *дзеясл.* Сёрбаць, есці што рэдкае. *Дзеці сюргуюць крупеню.* Хвёдараўка Краснап.

СЮ́РЫ-СЮ́РЫ, *выкл.* Кліканне авечак. *Сюры-сюры ў хату, маі маленькія ігняткі.* Хвёдараўка Краснап.

СЯБЁР, -бра, *м.* 1. Здаравенны тоўсты чалавек, брысюга. *Ну й сябёр жа етый хлапец!* Пацкава Мсцісл. *Стыдна такому сябру нічога ня дзелыць.* Гібалы Касцюк. 2. Ненадзейны таварыш. *Ны сябёра етыга ні надзейся, ён цябе ні паддзержыць.* Палуж Краснап.

СЯВЕ́Ц, сяўца, *м.* Сявец [сейбіт]. *З сяўнёю ходзіць па полі сявец.* Бабынічы Мсцісл. *Сявец сеіць жыта.* Глупікі Крыч.

СЯГО́ДНЯ, *прысл.* Сягоння, сёння. *Сягодня я пайду ў школу.* Маркаўка Хоцім.

СЯДЗЁЛКА, -і, *ж.* Ніжняя частка тулава. *Усім ты харош, толькі сядзелка там, айдзе ў людзей гылыва.* Горкі Краснап.

СЯДЗЁНЬНЕ, -я, *н.* Сядзенне. *Мы ўдваіх сядзем у вазку, а ты ны сядзеньні.* Пірагова Мсцісл.

СЯДЗЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Сядзець. *Пысадзілі мяне палтрет знімаць і прікызалі сядзець і ні шывяліцца.* Арцёмаўка Міласл. *На пуні сядзела галіца.* Гібалы Касцюк. *Нядобра кохта зшыта: сядзіць мяшком.* Вярбоўка Расням.

СЯДЗЁЛКА, -і, *ж.* Сядзёлка, кульбачка [падсядзёлак]. *Пыпраў сядзёлку ў кыня і пыдцягні тужэй пасак.* Глупікі Крыч. *Скажы дураку, што сядзёлка ныбаку.* Бязводзічы Мсцісл.

СЯДЗІ́БА, -ы, *ж.* Сядзіба, агародная зямля. *Яшчэ дужа многа работы — сядзібы не паханы.* Маркаўка Хоцім.

СЯ́ДЗЬБА, -ы, *ж.* Сядзіба. *Яго сядзьба нідалёчка атсюль.* Хвёдараўка Краснап.

СЯДУ́РА, -ы, *м.* і *ж.* Сядун, чалавек, што сядзіць на адным месцы. *Як я быў мылады, то пыскылясіў увесь сьвет, не так як ты, сядура, баісься зь места зрушыцца.* Слаўнае Мсцісл.

СЯЁНАЧЫ, *прысл.* Гэтае ночы. *Сяеначы ў аднае бабы ўвыкралі кубіл с салым.* Палуж Краснап. *Сяеначы ў нашай дзярэўні быў пыжар.* Сохана Мсцісл.

СЯКЕ́РА, -ы, *ж.* Сякера, тапор. *Сякера ляжала на дрывасеку, а січас німа, ці хто яе прыбраў?* Цёмны Лес Расням. *Мой бацька купіў добрую сякеру.* Ташна Клім. *Сякеру за поіс і пайшоў с плотнікамі.* Бяседавічы Хоцім. *Пазычця сякеры дроў насеч.* Кокатава Мсцісл.

СЯКРЕ́Т, -а, *м.* Сакрэт. *О, ета нільзя скызаць, ета — сякрет!* Пірагова Мсцісл.

СЯЛІ́БА -ы, *ж.* Сяліба, сядзіба. *Вот ета і мыя сяліба.* Папоўшчына Мсцісл.

СЯЛО́К, сялка́, *м.* Брусок, асялок. *Пытачы нож на сялок.* Хвёдараўка Краснап.

СЯЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Есці. *Калі сеў за стол, то сяляй, што пыставілі.* Слабада Крыч.

СЯМЁНЫВА КРОЎ, *бат.* Кветка [расліна]. *Сямёныва кроў — цьвет жоўтый, а як патрэш, дык красна.* Хвёдараўка Краснап.

СЯМУ́ХА, -і, *ж.* 1. Бёрда ў сем пасмаў. *Я буду ткаць кросны, і мне нада бёрда-сямуха, а ў мяне ёсьць толькі шастуха, дык ты пазыч мне свае сямухі, кумычка.* Хвёдараўка Краснап. 2. Сем шурак дроў. *Мы ўзяліся вывізьць сямуху дроў.* Там жа. 3. Карта сямёрка. *Сямуху бі дзівяткый.* Там жа.

СЯМ'Я́, -і, *ж.* Сям'я, бацькі і дзеці. *Ён нейкій вырыдак: ні ў нашу сям'ю ўдайся.* Дубеец Касцюк.

СЯНІ́ЦА, -ы, *ж.* Сянніца [пуня, хлеў для сена]. *К вясне сяніца ўжо пустая.* Зарубец Крыч. *Сяніца пыстаўлена ны краю сядзібы.* Пухнава Расням. *Сена ў сяніцы асталась мала.* Новыя Капачы Мсцісл.

СЯ́НЬНІ, *прысл.* Сёння, сягоння. *Сяньні я ні пайду ў вучылішча, абуцца не ўвы шта.* Канічы Касцюк. *Мокрыя сяньні надвор'я.* Гарцуеўка Касцюк.

СЯНЬНІ́К, -а, *м.* Сяннік, [вялікі] мяшок, напханы саломай ці сенам для пасцелі. *У пасьцелі новы сяньнік.* Машавая Бялынкав. *Я набіла свой сяньнік саломаю.* Канава Хоцім. *Нада сёньня сяньнік напхаць, бо голая кравацЬ.* Новыя Капачы Мсцісл.

СЯНЬНІ́ЦА, -ы, *ж.* Сянніца, пуня, хлеў для сена. *Сёліта ў сяньніцу пылажылі пятнаццыць вазоў сена.* Бяседавічы Хоцім. *Мы пылажылі поўную сяньніцу сена.* Вярбоўка Расням. *Ахрэм сьпіць у сяньніцы.* Мсціслаў.

СЯ́НЬНІШНІЙ, *прым.* Сённяшні, сягонняшні. *Із сяньнішній асеці шэсьць лубык аторы набілі.* Бяседавічы Хоцім.

СЯ́НЬНЯ, *прысл.* Сёння. *Сяньня я мала спрала нітак; толька адзін нарушнік.* Зяціца Мсцісл.

СЯРБАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Сербануць, хлябнуць. *Сядзь-ка сербані варыва колькі лыжак.* Гібалы Касцюк. *Я хуцінька сярбануў крупені з малаком ды пабех, каб не спазьніцца.* Слабада Крыч.

СЯРБА́ЦЬ, *дзеясл.* Сёрбаць, есці штонебудзь рэдкае. *Садзіся хуччэй ды сярбай пахлёбку.* Іванаўка Хоцім. *Сярбай, дзетка, крупеня смашныя.* Вінаградаў Міласл. *Маці дала дзецям есьць і скызала сярбаць хучэй.* Роськаў Калінінгшчына.

СЯРГЕ́Й, -я, *м.* Уласнае імя Сяргей. *Надовічы Сямёнаўна кызала, што Сяргей пыкраў коні.* Навасёлкі Мсцісл.

СЯРДЗЕ́ШНІК, -а, *м.* 1. *бат.* Сардэчнік, пустырнік. *Калі серца шчымля, дык трэба нырваць сярдзешніка і піць, ныпарыўшы.* Хвёдараўка Краснап. 2. Шворан у калёсах. *Сярдзешнік сагнуўсь, і вось выкруцілась.* Барысавічы Клім.

СЯРДЗІ́ТЫЙ, *прым.* Сярдзіты [злосны]. *Ён нахмурыў ліцо, штоб пыкызаць, што сярдзіт.* Арцёмаўка Міласл.

СЯРДУВА́ЦЬ, *дзеясл.* ЗлавацЬ. *Мыя сьвякруха ны мяне сярдуіць; я ня ведаю, чым я ёй ні ўгадзіла.* Гарбавічы Касцюк.

СЯРДУ́НЬНЯ, -і, *ж.* Злосная жанчына. *Ня будзь ты тыкая сярдуньня, ато будзеш у мужыка цірaз кій скыкаць.* Хвёдараўка Краснап.

СЯРЁД, *прысл.* Сярод, пасярод. *Сярёд талыга сьнегу вясною ўжо пыкызалыся зялёныя пралесычка.* Слаўнае Мсцісл. *Сярёд іншых грібоў пыпыдаіцца быравік, але мала.* Слабада Крыч.

СЯРЕ́ДЗІНА, -ы, *ж.* Сярэдзіна, спіна. *Стыяла, стыяла, сагнуўшысь, аж сяредзіна зыбалела.* Гібалы Касцюк. *Ох, баліць у мяне сяредзіна, пыра ўжо — косьці мае старыя.* Барысавічы Клім.

СЯРЁДКА, -і, *ж.* Сяродак, нутро. *Кажуць, што яго атруцілі — у бальніцы парезылі, дык нашлі ў сярёдкі атруту.* Арцёмаўка Міласл.

СЯРЕ́ДНІЙ, *прым.* Сярэдні. *У мяне сяредні паліц нешта баліць.* Гібалы Касцюк. *Я паміж двух сясьцёр сяредняя.* Слаўнае Мсцісл.

СЯРЁДЫК, -дка, *м.* Сяродак, нутро. *Яблыка сь сярёдку гнілоя.* Палуж Краснап.

СЯРЁН, -у, *м.* [Шарон], замерзлы зверху снег пасля адлігі. *Пойдзем пызыраней, пакуль дзяржыць сярён.* Гібалы Касцюк.

СЯРМЯ́ГА, -і, *ж.* Сярмяга, верхняя адзежа з шэрага сукна, пашытая ў талію са зборкамі ўнізе. *Пашый ты мне сярмягу нікуды ні варта.* Тур'я Чэрык.

СЯРНІ́ЧКА, -і, *ж.* Сярнічка, запалка. *Пупіряечый усі сярнічкі і ніводныя ні зыпаліў.* Хвёдараўка Краснап. *Зыпалі сярнічку і пысьвяці.* Вярбоўка Расням.

СЯРПО́К, -пка, *м.* Памянш. ад серп. *Сярпок мой дужа войстрый і лёгкій, ім рукі ні нывярэдзіш, жаўшы.* Пархвенава Мсцісл.

СЯРЭ́БРАНЫЙ, *прым.* Срэбны, зроблены з срэбра. *Мне дзядзька пыдарыў сярэбраныя часы.* Пірагова Мсцісл.

СЯРЭДЗІНА, -ы, *ж.* Сярэдзіна, спіна. *Каціў камінь ны мяжу, ды нешта ў сярэдзіне зыкалола.* Глінь Касцюк. *Што баліць у мяне сярэдзіна ў жніво!* Пірагова Мсцісл. *Белый, як яйцо, грыб, а ў сярэдзіне склізь.* Хвёдараўка Краснап.

СЯСТРА́, -ы, *ж.* Сястра. *Сястра дала мне паесьці, тады пышла ў гарод па зельля сьвіньням.* Гібалы Касцюк. *Німа ў мяне сястры, памёрла ўжо.* Слаўнае Мсцісл.

СЯСТРЫ́ЦА, -ы, *ж.* Сястрыца, сястра (ужываецца пры зваротку дзяўчыны да дзяўчыны). *А сястрыца ж ты мыя, каб ты ведыла, што ён пры цябе кызаў!* Нізькі Касцюк.

СЯУНЯ́, -і, *ж.* Сяўня, лубка для сяўбы ўручную. *З сяўнёю ходзіць сявец па полі.* Бабынічы Мсцісл. *Бяры сяўню, паедзім жыта сеіць.* Маластоўка Краснап.

СЯЧЫ́ [сеч], *дзеясл.* Сячы [секчы]. *Ты сячы, а я буду дзіржаць.* Хвёдараўка Краснап. *Гарэлый лес сякуць — будзіць дроў многа.* Паўлавічы Клім.

# Т

ТАБУ́Н, -а, *м.* Табун, гурт. *Пастух пыгнаў свой табун на выдапой.* Хвёдараўка Краснап. *Там пры Дунаю табуны маю, ‖ І сівыя, і гнядыя, і плясьнівыя, й выраныя.* З нар. песні, М. Г. 97.

ТА́БАРЫШЧА, -а, *н.* 1. [Табарышча], месца стаянкі цыганоў. *Вунь цыганскыя табырышча.* Хвёдараўка Краснап. 2. Выган, пасбішча. *Конь ходзіць ны табырышчы.* Там жа.

ТАВА́РЫШ, -а, *м.* Таварыш. *Ета мой таварыш.* Іванаўка Хоцім.

ТАГОЧА́СНЫ, *прым.* Тагачасны. *Пры тагочасных умовах нільзя было таго зьдзелыць.* Юшкі Мсцісл.

ТАГОЧА́СУ, *прысл.* Зараз жа. *Як пубачылі людзі агонь, тагочасу ж кінуліся рывываць.* Палуж Краснап.

ТАДЫ́, *прысл.* 1. Тады. *Ашукаўся я, нада мне было 'дтуля зыхадзіць, тады бы мы яго злавілі.* Пірагова Мсцісл. *Зрабіла ўсё, тады пашла гуляць.* Маркаўка Хоцім. 2. Пасля. *Хлопіц вылачыўсь за дзеўкый, а тады ўзяў ды спакінуў.* Палуж Краснап. *Сьпірва ты прідзі ка мне, тады я пріду.* Лешчынка Мсцісл.

ТАЁМНА, *прысл.* Таемна. *Ён хацеў ета зьдзелыць таёмна, штоб мы ні зналі.* Маластоўка Краснап.

ТАЁМНЫЙ, *прым.* Таемны. *З панскыга дому, кажуць, ёсьць таёмный ход зы ряку, у лес.* Крычаў.

ТАЗ, -а, *м.* [Таз], вялікая міска. *Налі ў таз вады ды вылылыскай.* Хоцімск.

ТА́ЙКА, -і, *ж.* Таварышка. *Волька добрыя дзяўчына — іна мыя тайка, мы зь ёю тайкі.* Хвёдараўка Краснап.

ТАІ́М, *прысл.* Таемна, употайкі. *Яўмен таім жаніўся зь ёю, каб бацькі ня ведылі.* Высокі Бор Краснап. *Німа, штоб пыраіцца, пысаветыцца з быцькамі, а ўсё таім дзелыюць, сваім адумым.* Пархвенава Мсцісл.

ТА́ЙНА, -ы, *ж.* [Тайна], таямніца. *Дзе ён бярэць столькі дзеніг, ніхто ні знаіць — ета яго тайна, і нікому ён ні кажыць.* Крывы Лес Росл.

ТАЙНА́, *прысл.* Таемна, скрыта. *Тайна ад другіх сваіх ён дзіржаў сымагонку і пынямножку піў.* Бяседавічы Хоцім.

ТАЙНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Сакрэт. *Скажу табе тайнысьць.* Палуж Краснап.

ТАЙСТРА́, -ы, *ж.* Кайстра, торбачка. *Вучань прышоў з вучылішча і павесіў тайстру ны сьцяну.* Ганнаўка Клім. *Пыкладзі мне хлеба ў тайстру, штоб хапіла ны два дні.* Сабалеўка Калініншчына.

ТАІ́ЧКА, -і, *ж.* Таварышка, кума. *Мыя таічка, мыя любая! Ці чула ты, што людзі кажуць?* Гібалы Касцюк. *Паслухай ты, таічка, што ны цябе Матруна кызала.* Пархвенава Мсцісл. *Ці хадзіла ты, таічка, навыр?* Канава Хоцім.

ТАК, *прысл.* Так. *Мух столькі зьвялося ў хаці, проста роем так і гудуць.* Касперка Міласл. *Так цяжка было йці, што думала ўжо ні прыду — стаміўся дужа.* Слабада Крыч.

ТАКСА́МА, *прысл.* Таксама. *Сапрацівак таксама накладзен сенам.* Пухнава Расняп. *Я таксама пайду сяньня ў грыбы.* Пархвенава Мсцісл.

ТАКІ́Й, *займ.* Такі [гэтакі]. *Такі ўжо дзень сяньня, што ні тыланіць.* Слабада Крыч. *Як жаніўся, думаў — будзіць жонка добрая, ажно такій гультай, што хуць ты колам бі.* Пірагова Мсцісл. *Іван, чаго ты стаў такій сіпатый?* Канічы Касцюк. *Такей дрэнны гэты вучань, ажно страх!* Мсціслаў. *Ягор такей пыкладзістый чылавек.* Восаў Краснап. *Такей байбус, а пыхаць ня ўмеіць, як ні стыдна!* Горкі Хоцім. *Лі калодзісч тыкая сьлізота, што і пыдайці нільзя.* Канічы Касцюк.

ТАЛЕР, -а, *м.* Талер, грашовая адзінка. *Як пушчу я два талеры па бітый дарозі, ‖ Адзін талер пыкаціўся, другій прізыстаўся.* З нар. песні, М. Г. 90.

ТАЛЕ́РКА, -і, *ж.* Талерка. *Я зьеў талерку крупені ды так і пашоў.* Маластоўка Краснап. *Памый талеркі і пыстаў у суднік.* Бялішчына Мсцісл. *Талерка ні памытыя, і крупені ўліць не ўва шта, хуць з гыршка еж.* Лешчынка Мсцісл.

ТАЛМУ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Абманваць, абдурваць. *Нашто ты талмудзіш мяне старую?* Хвёдараўка Краснап.

ТАЛО́КА, -і, *ж.* Поле пад папарам, дзе пасецца статак. *Сёліта ў нас талока дрэнныя, каровы ні ныідаюцца, бо травы німа.* Брылёўка Краснап.

ТАЛЫ́Й, *прым.* Талы. *Сярод талыга сьнегу вясною ўжо пыкызалыся зялёныя пралесычка.* Слаўнае Мсцісл.

ТАМ, *прысл.* Там. *Бягі ў сад, там дзед яблыка дасьць.* Бяседавічы Хоцім. *Там ні піралезіш — дужа гразка.* Ясенка Краснап.

ТА́МА, *прысл.* Там. *Я была тама і адтуль прышла пряма сюды.* Лешчынка Мсцісл. *Піла ляжыць тама.* Палуж Краснап.

ТА́МАЦЬКА [тамацькі], *прысл.* Там. *Тамацька хлопец утануў. Вунь, тамацька стаіць, зы шахвай.* Мсціслаў. *Ён жа ляжыць тамацькі.* Палуж Краснап.

ТА́МБУР, -а, *м.* Кручок для вязання. *Етый платок ны тамбур вязаный, а не на пруткі, я тож зьвізала такій.* Пірагова Мсцісл. *Дай мне тамбур, фарботы візаць.* Буліна Касцюк.

ТАМБУ́РКА, -і, *ж.* Кручок для вязання.

*Тамбурка нейдзе зывалілысь і ні найду — толькі што візала і німа.* Барысавічы Клім. *Купі ў кыпірацівi тамбурку, ато німа чым візаць.* Крычаў.

ТАМУ́, *прысл.* Таму, з той прычыны. *У нас пішчаныя почва, таму хлеб дренна родзіць.* Слаўнае Мсцісл. *Ылажылі бальшую пошліну ны зыгранішныя тывары, таму яны і дорыгі так сталі.* Бяседавічы Хоцім.

ТА́МЫЦЬКА, *прысл.* Там. *Вунь тамыцька стаіць мыя хата.* Кокатава Мсцісл. *Ты тамыцька ета ўсё скажыш, а мне нечыга гыварыць, я табе ні пасоблю.* Студзянец Касцюк. *Тамыцька быў і ён.* Васілёўка Хоцім.

ТА́НБАРКА, -і, *ж.* Тамбурка, кручок для вязання. *Танбаркаю зьвязалі чулок.* Іванаўка Хоцім.

ТАНІНА́, -ы, *ж.* Таніна, тонкасць. *Твыя пряжа дужа тонкыя, такой таніны ні ў аднэй з нас німа.* Высокі Бор Краснап.

ТАНО́К, -а, *м.* Карагод. *Надзела вянок і пышла ў танок.* Горка Краснап.

ТАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Тануць, тапіцца. *Плыў, плыў ды змогся; пычаў ужо тануць быў, але нейк выплыў.* Слабада Крыч.

ТА́ННЫЙ, *прым.* Танны. *На бызары сяньні коні танныя.* Расна.

ТАНЮ́ТКІЙ, *прым.* Танюткі, зусім тонкі. *Зьві-ка ты мне, Сайка, танюткую бічэйку.* Добрае Мсцісл. *Мама сьпікла мне танюткі блін.* Забелышана Хоцім.

ТАПЕ́ШКА, -і, *ж.* Тоўстая жанчына. *Твыя бабка еткая тапешка, што яе й ні паверніш.* Хвёдараўка Краснап.

ТАПІ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Тапіцца. *Пашоў бы тапіцца, ды выда халодныя.* Пархвёнава Мсцісл. 2. Паліцца, гарэць у печы. *Печка топіцца, а карысьці німа — усёдно холадна.* Нашкавічы Мсцісл. *Як будзе печка тапіцца, дык нагрэім вады цугун.* Касцюшкавічы Крыч.

ТАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Тапіць. *У Васіля, як сучка ашчанілыся, дык ён забраў шчынят у мішок і панёс іх тапіць.* Нізкі Касцюк. 2. Паліць у печы. *Пріняcі ў хату бяремца дроў, будзім грубку тапіць.* Слаўнае Мсцісл.

ТАПО́Р, -а, *м.* Тапор, сякера. *Пыдай тапор — клін засеч нада.* Ташна Клім. *Узяў тапор і пашоў у лес сеч дровы.* Бяседавічы Хоцім. *Айдзе тапор — нада дроў насеч.* Арцёмаўка Мілаcл. *Затупілыся сусім лязо тыпыра, нада несьць у кузьню ды атгачыць.* Слаўнае Мсцісл. *Во, німа тыпыра: дзе-та загінуў.* Дубеец Касцюк.

ТАПТУ́ХА, -і, *ж.* 1. Тоўчаная [вараная] бульба, камы. *Таптуха ўжо гатова, ідзеце сьнедаць, пакуль гырачыя.* Рэкта Калінінщчына. *Дзеці елі таптуху.* Ганнаўка Клім. 2. Ступа. *Унясіця ў хату таптуху, нада троху круп стоўч.* Сабалеўка Хоцім.

ТАРАПІ́ЦЦА, *дзеясл.* Спяшацца. *Сын таропіцца на службу.* Вінаградаў Мілаcл.

ТАРГО́УЛЯ, -і, *ж.* Гандаль. *Таргоўля сяньні ні важныя; німа купцоў на коні.* Парадзіна Мсцісл.

ТАРГУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Таргавацца. *Чаго ты зы рубля таргуісься, аддывай, бо болі ўсёдно ніхто ні дасьць.* Клімавічы.

ТАРГУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Таргаваць. *Таргувaў я сяньня кыня, дык во, брат, конь — а няхай яго воўк, як зьвер. Хацеў дужа купіць, але ў цане ня сышліся.* Касцюшкавічы Крыч.

ТАРО́К, тарка́, *м.* Кладка праз рэчку з бярвенняў. *Зьвізалі тарок і па ём пычалі хадзіць ціраз рэчку.* Хвёдараўка Краснап.

ТАРЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Тырчаць. *У твайго сыбакі вушы тарчаць, як у воўка.* Пірагова Мсцісл. *Вырві етый гвозд, ато тарчыць тут і адзежу рвець.* Маркаўка Хоцім. *Ні ў галавы, ні пад бок, тарчыць кыбызом.* Палуж Краснап.

ТАРЧМАКА́, *прысл.* Тырчма. *Як кінуў палку, дык тырчмаком у вока карові пыпала. Яго ўдарылі так, што ён тарчмаком паляцеў.* Рэкта Калінінщчына.

ТАСЁМКА, -і, *ж.* Тасёмка. *Заместа гаплікоў папрішыты тасёмкі.* Сабалеўка Хоцім. *Купі там у горыдзі тасёмку: белае два мэтры і чорнае два.* Сідараўка Калінінщчына.

ТА́ТА, -а, *м.* Тата, бацька. *Тата купіў мне пушку на пёркі і кырындаш.* Барысавічы Клім. *Мой тата паехаў у горад.* Карма-Пайкі Мілаcл. *Не, сынок, каму Ягор, а табе — тата.* Старае Сяло Мсцісл.

ТА́ТКА, -а, *м.* Татка, бацька. *Татка з Амсьціслаўля прывёз нізку быранкыў.* Мазалава Мсцісл. *Таткі німа дома, паехаў у лес па дровы.* Слабада Крыч. *Асаблівый паклон ат мяне перадай свайму татку.* Пірагова Мсцісл.

ТАТУХНА, -ы, *м.* Татуля, ужываецца ў песнях. *Абнясі, татухна, двор рякою, ‖ Ні пусьці, татухна, быярый на двор,— ‖ Будуць цябе, татухна, выіваць, ‖ А й мяне ат цябе атбіраць.* З вясельн. песні. Расна.

ТА́ТЫН, *прым.* Татаў. *У яго ўсі рыхтычкі татыны: усенькі тата.* Кокатава Мсцісл.

ТА́ТЫЧКА, -а, *м.* Памянш. ад тата. *Прынясі, татычка, мне кіёчка з лесу.* Слабада Крыч. *Чаго ты, татычка, плачыш?* Сохана Мсцісл.

ТАЎКА́Ч, -а, *м.* Таўкач. *Ступа ёсьць, а таўкач знойдзецца. Абылванілі мяне ў цырульні — як таўкач зрабіўся!* Пірагова Мсцісл.

ТАЎКА́ЧЫКІ, -аў, *мн. л. бат.* Таўкачыкі, пустазелле. *Як толькі сойдзець сьнег, у іржышчы вырыстаюць таўкачыкі.* Пірагова Мсцісл.

ТАЎКУ́ШКА, -і, *ж.* Таўкач, мяла. *Бяры таўкушку ды таўчы бульбу.* Хвёдараўка Краснап.

ТАЎСЬЦЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Таўсцець, рабіцца тоўстым. *Калі далі яму харошую выгаду, дык ён зразу пычаў таўсьцець.* Бяседавічы Хоцім.

ТАЎЧЫ́ [тóўч], *дзеясл.* Таўчы. *Ня трэба ўжо больш таўчы пышаніцу, даволі ўжо.* Навасёлкі Мсцісл. *Маці таўкла ў ступе проса.* Ганнаўка Клім.

ТАЎШЧЭ́ННЫЙ, *прым.* Таўшчэнны [таўшчэзны], тоўсты. *Дзед таўшчэнный, як бочка.* Бяседавічы Хоцім. *Сьпілілі таўшчэнную сасну: будуць харошыя дошкі.* Палуж Краснап.

ТА́ХЫЦЬ, *дзеясл.* Тахаць [ляпаць]. *Дзейка ні малоціць, а толькі тахыя цэпым.* Палуж Краснап.

ТА́ЧКА, -і, *ж.* Тачка. *Прывезьлі дзьве тачкі пяску.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ТАЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Тачыць. *Лукерья з Аксютый пынясьлі сярьпы тачыць да кузьні.* Брылёўка Краснап.

ТА́ЯЦЬ, *дзеясл.* Таяць, раставаць. *Сёлета сьнег пычаў таяць толькі ў марці.* Пірагова Мсцісл.

ТВАНЬ, -і, *ж.* Твань. *Зыцягнула твань усю речку.* Лешчынка Мсцісл. *Як залез кыла рэчкі ў твань, дык чуць вылез.* Вародзькава Крыч. *Тут німа пясочку, а 'дна твань.* Маластоўка Краснап. *У возірі твані многа лі бірягоў.* Барысавічы Клім.

ТВАРЬ, -і, *ж.* 1. Твар. *У мяне ад зубоў, што быляць, уся тварь распухла.* Гібалы Касцюк. 2. Стварэнне. *Ох, ты, подлыя тварь!* Там жа.

ТВЕ́ДЫЦЦА, *дзеясл.* Даведацца [адведаць]. *Чылавек зыхварэў, дык яго ніхто ня 'тведыўсь.* Палуж Краснап.

ТВІЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Адказваць. *Напісаў брату пісьмо, а ён нешта доўгі ні 'твічаіць.* Пірагова Мсцісл.

ТВОЙ, *займ.* Твой. *Колькі каштуе твой гадзіньнік?* Віхраны Мсцісл. *Я быў у Менску і відзіў твайго брата.* Гібалы Касцюк. *Ладныя твыя скрыпычка — добра йграіць.* Белы Мох Мсцісл. *Тваё сьпіваньня мне ўжо абрыдла — каб жа добра пела, ато пішчыць толькі.* Ушакі Чэрык.

ТВО́РІЦ, -рыца, *м.* Творца. *Поп кажыць, што творіць сусветныя — бог, а вучыціль кажыць, што бога нет, і сусьветныя сама стварілась.* Казельская Буда Краснап.

ТКАНІ́НА, -ы, *ж.* Тканіна. *Сяляне носяць вопратку з сымаручнай тканіны.* Сохана Мсцісл. *Купіў нейкія тканіны на рубашку.* Дарагая Крыч.

ТКА́НКА, -і, *ж.* Пасма льну, якая ўплятаецца ў косы замужнімі жанчынамі. *Калі Наста была дзеўкай — заплітала касу, а як вышла замуж — ей тканку зывізалі.* Гібалы Касцюк.

ТКА́НЫЙ, *прым.* Тканы. *Ета ні вышываныя, а тканыя палікі.* Гусарка Клім.

ТКА́НЬНЯ, -я, *н.* Тканне. *Нада рыхтывацца ды тканьня — кросны снываць ды ставы ставіць.* Макуліна Расням.

ТКАЦЬ, *дзеясл.* Ткаць. *Макрыда, садзіся ткаць кросны, нечыга бібікі біць!* Бродкі Крыч. *Насукай мне цеўку, ато ткаць нечым.* Слаўнае Мсцісл. *Бялёўкі пыставіла — буду ткаць.* Хвёдараўка Краснап.

ТКІ, *часц.* Такі. *Трэба ж-ткі рызальліць ваду, бяз етыга ні абойдзіцца.* Бардзіч Краснап.

ТКУЛЬ, *прысл.* Адкуль. *Нізьвесна ткуль зыявіўся.* Хвёдараўка Краснап.

ТЛУ́СТЫЙ, *прым.* Тлусты. *Вапрук ваш ужо тлусты.* Хвёдараўка Краснап. *Крупеня тыкая тлустыя, з салым, а ты есьць ня хочыш.* Слабада Крыч.

ТЛЫМА́ЦЬ, *дзеясл.* Адламаць. *Бацька тлымаў дручыну і дывай біць каня.* Маластоўка Краснап.

ТО, *займ.* Тое. *Усё-ткі я ўзяў то, што хацеў.* Бяседавічы Хоцім.

ТО́ДАР, -а, *м.* Уласнае імя Тодар. *Тодар зламаў грабільно.* Бязводзічы Мсцісл.

ТОЙ, *займ.* Той. *Нашто ты ўзыраў той лабыр — на ім ўсёдно нічога ні расьцець.* Краснаручча Расням. *Скаціна і тая пынімае, хто яе корміць.* Парадзіна Мсцісл. *Пачынай ат'ізныва, я ўжо тое забыў.* Пірагова Мсцісл.

ТОК, -у, *м.* Ток. *Ток у гумне шырокі.* Пухнава Расням. *Ны кані ні ўз'іждай на ток, ато пыкывіряіш, дык малаціць нельга будзіць.* Бяседавічы Хоцім. *Ны таку цэлыя куча жыта нымалочына.* Машавая Бялынкав. *Пышкрабылі ток, што нельга мылаціць.* Бродкі Крыч.

ТОЛК, -у, *м.* Толк, парадак, карысць. *На сходцы крічалі многа, а да толку ні дайшлі.* Слаўнае Мсцісл. *А якей толк з таго, што ты будзіш гываріць — усёдно ніхто цябе ні паслухыя.* Васілеўка Хоцім.

ТО́ЛЬКА [то́лькі], *прысл.* Толькі. *Зь ей ня толька жыць — сустрэцца нельга.* Радзіонаўка Мсцісл. *Толькі зыпаліла лямпу, так стакан і лопнуў.* Смолькаўская Буда Бялынкав. *Я толькі кароў пацыркаю і будзем сьнедаць.* Бабынічы Мсцісл.

ТО́МНА, *прысл.* 1. Цёмна. *Томна стала ў вычах.* Хвёдараўка Краснап. 2. Томна. *Томна таму, хто каго любіць.* Студзянец Касцюк.

ТО́МНАСЦЬ, -і, *ж.* Томнасць, знямога ад душэўных перажыванняў. *Усё цела маё нейкыя томнасьць агарнула.* Студзянец Касцюк.

ТО́МНЫЙ, *прым.* Хворы, нездаровы. *У мяне томный жывот і ўсё цела томныя.* Краснаполле.

ТО́НІНЬКІЙ, *прым.* Тоненькі. *Мой бізунчык хуць тонінькій, алі добра данімаіць.* Слаўнае Мсцісл. *Яшчык зьбіт з тонінькіх дошычак.* Горлава Расням.

ТО́НКА, *прысл.* Тонка. *Гдзе тонка, там і рвецца.* Слабада Крыч.

ТОНКАПРЯ́ДНІЦА, -ы, *ж.* Пралля, папрадуха, што тонка прадзе. *Суклета—тыкая тонкапрядніца, што і ў сьвеці німа.* Палуж Краснап.

ТО́НКІЙ, *прым.* Тонкі. *Тонкі твой кій— гнецца.* Забелышана Хоцім. *У кыбына ны пыдчароўку сала было тонкыя.* Касцюковічы. *Чэріз речыньку, чэріз быструю ‖ Тонка кладычка ляжыць.* З нар. песні, М. Г. 6.

ТО́НКЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Тонкасць. *Тут, браце, тыкая тонкысьць, што ў рукі вазьмеш, дык і ня чутна і наскрозь уся сьвіціцца.* Бяседавічы Хоцім.

ТО́ПКА, *прысл.* Топка, грузка. *Асьцярожна ступайце пу балоці — тут топка, і можыш пу пояс у грязь шаснуць.* Васілеўка Хоцім.

ТО́ПКІЙ, *прым.* Топкі. *Рячулка етыя выцікаець з балота, у яе і бірягі там топкія, ні пыдыйсьці.* Горлава Расням.

ТО́ПКЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Топкасць. *Тут раньшы была страшэнныя топкысьць, ступіць нільзя было, а ік выкыпылі кынаву — падсохла і хадзіць можна.* Гусарка Клім.

ТО́ПЛІНЫЙ, *дзеепрым.* Топлены. *Топліный лой можаць доўга ліжаць і ні псуецца.* Касперка Міласл.

ТО́РБА, -ы, *ж.* Торба. *А йдзе мыя торба, нада ў школу йціць.* Гусарка Клім. *Жыбрак назьбіраў цэлую торбу хлеба.* Белы Камень Бялынкав. *Вазьмі хоць бульбы ў торбу, бо хлеба німа.* Горлава Расням. *Адрэзыў*

*сабе ськібку хлеба і пыклаў у торбу*. Парадзіна Мсцісл.

ТО́РБЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад торба. *Іду я пы дарозе, аж ляжыць торбычка з хлебым — відаць, нехта згубіў*. Гусарка Клім. *Зяць скылануў торбычку, а там нічога німа*. Палуж Краснап.

ТО́РЬБЫЧНІК, -а, *м.* Жабрак. *Сколькі тут ходзіць етых торьбычнікыў? Усім жа ні ныдаесься*. Восаў Краснап.

ТО́РГ, -а і -у, *м.* Торг, базар. *Заўтра будзе вялікі торг*. Крычаў. *Бацька купіў начоўкі ны таргу*. Пірагова Мсцісл.

ТО́РГНУЦЬ, *дзеясл.* Торгнуць. *Торгні вожкымі, каб конь пабех*. Горкі Краснап. *Торгнуў кыня, а ён ні зь места*. Нізькі Касцюк.

ТО́РГЫЦЬ, *дзеясл.* Чапаць. *Ня торгый яго, ато будзе бяды*. Горкі Краснап.

ТО́РНЫЙ, *прым.* Торны, утаптаны, убіты. *Туды йдзе торныя дарожка*. Палуж Краснап. *На торный дарозе спатыкнуўся*. Студзянец Касцюк.

ТО́РШМА, *прысл.* Тарчма. *Як піхнулі мяне, дык я і пылящеў у кынаву торшма носым*. Слаўнае Мсцісл.

ТО́ТА, *выкл.* Але, так. *Тота, тота, панічка! І я ж так кажу*. Палуж Краснап.

ТО́ЎК, -у, *м.* Толк, польза, карысць, парадак [сэнс]. *Калі ўжо выбіраць, дык нада дзельных людзей, каб тоўк быў*. *Чаго брындаеш біз тоўку? Ідзі коні пасьвіць*. Парадзіна Мсцісл.

ТО́ЎСТАЯ, *прым.* Цяжарная. *Твыя баба, верна, тоўста стала — насьледніка гатуіць*. Прыпёчына Касцюк.

ТО́ЎСТЫЙ, *прым.* Тоўсты. *Граблі цяжкія: брусок вельмі тоўсты ў іх*. Пухнава Расням. *Вазьмі тоўсты сьвердзіл ды пракруці дзірку*. Добрае Мсцісл. *Тоўстыя вяроўка, а рвецца — гнілая мабыць*. Бродкі Крыч. *На лыткі нада выбіраць тоўстыя бярно*. Тур'я Чэрык.

ТО́ЎЧЫНЫЙ, *прым.* Тоўчаны. *Накрышы сала ў тоўчыныю бульбу ды пыдсмаж*. Канічы Касцюк.

ТО́ЧКА, -і, *ж.* Кропка. *Ох, якій жа ты адгадлівый, так зразу і пыпаў у самую точку*. Пірагова Мсцісл.

ТПРУ́НЬНІ, -іў, *мн. л.* Губы. *Чаго ты тпруньні склала, ні сярдзісь*. Куркаўшчына Мсцісл.

ТРАВА́, -ы, *ж.* Трава. *Трава сёліта вырасла па поіс*. Студзянец Касцюк. *З дарогі насып на луку насыпыла, травы сколькі прыпала*. Барысавічы Клім. *Мятлушка пырхыіць пы траве*. Слаўнае Мсцісл.

ТРАВЯНІ́СТЫЙ, *прым.* Травяністы. *Наш луг травяністы, на ім мы заўсёды накошваем сена быгата*. Сутокі Мсцісл.

ТРАЙНЯ́, -і, *ж.* Трайня, аснова воза, бярозавая развіліна, што злучае заднюю і пярэднюю падушкі. *Атсек сабе бярозывую разьвіліну ў лесі, будзіць ладныя трайня ў мыжары*. Хвёдараўка Краснап. *Трайня калёсы дзяржыць*. Аршаншчына.

ТРАІ́ЦЬ, *дзеясл.* Траіць, араць поле другі раз. *Нада ўжо поле траіць, пара. Я ўжо свой пыпар пытраіў*. Хвёдараўка Краснап.

ТРАМ, -а, *м.* Трама, бэлька пад столлю ў хаце. *У нашай столі тры трамы*. Быкава Мсцісл. *Пыкладзі мылаток ны трам*. Вербеж Чэрык.

ТРА́МА, -ы, *ж.* Трама, бэлька пад столлю ў хаце. *Пылажы хлеб ны траму, каб кошкі ні цігалі*. Слаўнае Мсцісл.

ТРАНЖЫ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Траціць, распускаць грошы без сэнсу. *Вось жа транжырыць, рыстранжырыў усі грошы, а путныга нічога ні зрабіў*. Куркаўшчына Мсцісл.

ТРА́НТЫ, -аў, *мн. л.* Транты, лахманы. *Бяжыць, аж транты бўўтаюцца*. Канічы Касцюк. *Во сьвітка — адны транты*. Куркаўшчына Мсцісл. *Такі злыдня — і есьць за што купіць, а ў трантых ходзіць*. Парадзіна Мсцісл. *Абвалындыліська бедныя: адны транты бўўтаюцца*. Пірагова Мсцісл.

ТРАПА́, -ы, *ж.* Сцежка. *Ён ды яе трапу набіў*. Палуж Краснап. *Ета нейкыя воўчыя трапа, ніхто па ёй і ні ходзіць*. Вітрунь Касцюк.

ТРАПА́Ч, -а, *м.* Трапкач, ручнік з «трапкамі», ніцянымі канцамі, у якім носяць абед на поле. *На, во табе трапач, зынясі бацьку на поля*. Хвёдараўка Краснап.

ТРА́ПІЦЦА, *дзеясл.* Трапіцца. *Калі трапіцца, дык зайду к яму, а назнарок німа чаго ісьці*. Красоўка Краснап. *Заіжджай, калі трапіцца*. Паходавічы Чэрык. *С пылавіны дарогі мне трапіўся папучык, тожа ішоў у тую дзярэўню, дык мы з ім і пашлі разым*. Арцёмаўка Міласл.

ТРА́ПІЦЬ, *дзеясл.* Трапіць. *Ніяк ні магу ўцяміць, як я сюды трапіў*. Слаўнае Мсцісл. *Мне рыскызалі, як дайці, дык я адразу трапіў*. Журбін Бялынкав.

ТРАПКІ́, -пок, *мн. л.* Трапкі, ніцяныя канцы ў ручніку. *Пойдзем рабіць трапкі*. Лабаноўка Хоцім. *Узіла з сабою трапкі візаць*. Слабада Крыч.

ТРАПЫ́ШКА, -і, *ж.* Трапло, драўляная лапатачка для трапання льну. *Маці трыпала лён трапышкай*. Ганнаўка Клім. *Дзе гэта трапышка, нада йці лён трыпаць*. Новыя Капачы Мсцісл. *Марына, ці добрая ў цябе трапышка?* Крычаў.

ТРАСІЯ́, -і, *ж.* Дрыгва, балота. *Кыля крыніцы трасія*. Вародзькава Крыч. *Тут тыкая трасія, што ні пралезіш, нада абыйці ета балота*. Пархвёнава Мсцісл.

ТРАСКО́УЯ, -я, *н.* Трэскаўе, месца, дзе колюць дровы. *Ідзі ны траскоўя, нызьбірай трэсычык ны падтопу, ато дровы ні гыраць*. Хвёдараўка Краснап.

ТРАСЬЦЁ, -я, *н. зборн.* Трысцё, тонкія пласцінкі, з якіх складаецца берда. *Бярдоўнік пыўставіў трасьцё ў старое бёрда*. Юшкавічы Расням.

ТРАСЬЦІ́СЯ, тря́сца, *дзеясл.* Дрыжаць, трэсціся. *Міхась ад холаду ўвесь трасецца*. Васілёўка Хоцім. *Сы страху ў яго аж лыткі трасуцца*. Хвёдараўка Краснап. *Бягіць, аж хвалды трасуцца*. Там жа. *Віхор у кыбына трасецца*. Тур'я Чэрык.

ТРАТА, -ы, *ж.* 1. Трата. *Дармувая трата часу — піріліваць із пустога ў парожнія*. Слаўнае Мсцісл. 2. Выдаткі. *Далі зыдатык на сінакос, зьдзелылі трату, а сколькі будзець таго сена — ні зьвесна*. Бяседавічы Хоцім.

ТРАХТУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Хваліць часта-

ванне. *Госьці ядуць куўбасы ды трахтуюць.* Беразякі Краснап.

ТРА́ЦІЦЬ, *дзеясл.* Траціць. *На ета дзела ні варта грошы траціць.* Куркаўшчына Мсцісл. *Не траць грошы дырма.* Хоцімск.

ТРАЎЁ, -ўя, *н. зборн.* Траўё (крапіва, бадылле). *Я табе атважу траўём, дык ты будзіш знаць — усяго пыбсікаю.* Хвёдараўка Краснап.

ТРА́ЎКА, -і, *ж.* Памянш. ад трава. *Сонца прігрела пу вясеньніму, і ны прыгалінках ужо траўка зазілянела.* Бяседавічы Хоцім.

ТРЕ́БА, *прысл.* Трэба. *Ці спраўна, кум, твыя сылмарезка, мне треба было нарезыць резкі. Треба пашкресьці кыня, ды скрябілкі ні найду.* Канічы Касцюк.

ТРЁХВУГО́ЛЬНЫЙ, *прым.* Трыкутны. *Нівялікій кусочык сінакосу, трёхвугольный: з адной стыряны речка, а з другей — лес, а там дарога.* Гібалы Касцюк.

ТРЕ́ЦЬЦІЙ, *прым.* Трэці. *Два вазы я ўжо атвёз, а ета вязу трецьцій.* Бяседавічы Хоцім. *Другій пыдарык — конь выраный, || Трецьцій пыдарык — сам мыладый.* З нар. песні, М. Г. 9.

ТРІ, *ліч.* Тры. *Ганна спряла трі мычкі за вечыр.* Гібалы Касцюк. *За сыныпрядку аддаў трі рублі.* Арцёмаўка Міласл.

ТРІБУ́НА, -ы, *ж.* Трыбуна. *Ты пыглянь, хто стаіць на трібуні с прідсідацілім, ета наш вучыціль. Січас ён гуваріць будзець.* Клімавічы.

ТРІПУ́ТНІК, -а, *м. бат.* Трыпутнік, падарожнік. *Тріпутнік — ета лісцікі, што растуць кыла дарогі; ты етый тріпутнік прілажы к скулкі, дык скарей загоіцца.* Арцёмаўка Міласл.

ТРІСЬЦЕ́Н, -а, *м.* Трысцен, паветка з трох бакоў абмежаваная сценамі. *Пыдвязі калёсы ў трісьцен, ніхай дождж ні мочыць.* Маластоўка Краснап.

ТРІСЯНІ́НА, -ы, *ж.* Дрыгва. *Там тыкая трісяніна, што калі ікая скаціна ў яе пупадзець, то сыма ўжо аттуль ня выйдзець, пакуль яе ня выцігнуць ны вяроўкых.* Бяседавічы Хоцім.

ТРО́ГАЦЬ, *дзеясл.* Чапаць. *Каб цябе ня трогала сарочка, як я цябе ня трогаю!* Новае Сяло Мсцісл.

ТРО́ПКА, -і, *ж.* Лупцоўка. *Зыдай яму тропку, штоб помніў.* Палуж Краснап.

ТРО́СТАЧКА, -і, *ж.* Трысцінка, тоненькая пласцінка ў бёрдзе. *У бёрдах сідзяць тростачкі; чым таней яны, тым гусьцей пылатно тчэцца. Тры тростачкі — ета чысьлінка: так шчытаюць.* Парадзіна Мсцісл.

ТРО́СТКА, -і, *ж.* Кіёк, палка. *Тростка ў яго з кулькай, ідзець і пымахіваіць ёю.* Людагошч Мсцісл.

ТРО́СЬЦЬ, -і, *ж.* Трысцінка. *У бёрдзі дзьве тросьці зламаліся.* Хвёдараўка Краснап.

ТРО́ХІ, *прысл.* Трохі, троху. *Зьеж трохі крупені.* Іванаўка Хоцім. *Добрыя дзеўка, а што трохі кысывата, дык ета ні зыгана.* Парадзіна Мсцісл. *Мяцеліца трохі пірістала — можна ўжо зыпрігаць ды ехаць двору.* Ушакі Чэрык.

ТРО́ХУ, *прысл.* Троху, трохі. *Троху пыгыдзя і бацька прышоў.* Гарбавічы Касцюк. *Грошай троху зысталося.* Палуж Краснап. *У нас яшчэ троху кардохыль ёсьць — можа да новых хваціць. Ці нам многа нада?* Арцёмаўка Міласл.

ТРО́ШКІ, *прысл.* Трошкі. *Трошкі абаждзі, разым пайдзем.* Ясенка Краснап. *Госьці прышлі, а іна хоць бы пыклыпаціласъ прыбрацца трошкі — так у забрындыный спадніцы і на стол пыдаець.* Парадзіна Мсцісл. *У яе гаворка трошкі кыртавыя, а так дзеўка нічога.* Пухнава Расняп.

ТРО́ШКУ, *прысл.* Трошкі. *Пыгадзі трошку мяне, я толькі ныпрянусь.* Маркаўка Хоцім. *Ні хвытайця бліноў такіх гырачых, ніхай трошку прычахнуць.* Куркаўшчына Мсцісл. *Трошку водыль ад майго двыра цячэ рэчка.* Кокатава Мсцісл.

ТРО́ШЫЧКІ, *прысл.* Трошачкі, зусім мала. *Етый хлопіц можа трошычкі, чуцьчуць больш таго.* Арцёмаўка Міласл.

ТРУБА́, -ы, *ж.* 1. Труба. *Пастух трубіць у трубу, аж водгылас ідзе.* Хлышчова Мсцісл. 2. Русло ракі. *Сож яшчэ ні ўвайшоў у трубу.* Сычык Чэрык.

ТРУБІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Трубіць. *Нехта ў лесі трубіць, мабыць пастух.* Трубільна Краснап. *Войска йдзе: у трубы трубяць.* Шэвялёўшчына Мсцісл. 2. Гаварыць назойліва. *Ня будзь ты ныдаедый — усё сваё трубіш.* Палуж Краснап. *Ня слухыйця жвянькылу, адно й тоя трубіць.* Маластоўка Краснап.

ТРУ́БКА, -і, *ж.* 1. Трубка. *Паіныя трубка слабей за літыю.* Бяседавічы Хоцім. 2. Сувой палатна, скрутак паперы. *Лавышнік атрезыў ад целыя трубкі кывалык мацеріі.* Слаўнае Мсцісл. *Зынясі трубкі ў кубіл.* Нізькі Касцюк. 3. Люлька. *Смаль забілысь у трубку, што й выбіць цяжка.* Лешчынка Мсцісл. 4. Горла. *Пыпярхнуўся еўшы, дык крошка ў трубку пыпала — ніяк адкашліць ні магу.* Барысавічы Клім.

ТРУДА́, -ы, *ж.* Цяжкае становішча, цяжкасць, мука. *Еткую труду церпіць баба ціраз сына.* Палуж Краснап.

ТРУДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Мучыцца. *Дакуль мне трудзіцца ціруз цябе п'яніцу?* Палуж Краснап.

ТРУ́ДНА, *прысл.* Трудна, цяжка. *Наш студзін дужа глубокій, трудна вады дыстаць.* Канічы Касцюк. *Старому трудна і є печы зьлесьці.* Гарадок Раснян. *Калі ўдаўся нарт, дык ужо трудна пірадзелыць.* Кокатава Мсцісл.

ТРУ́ЖЫНІК, -а, *м.* Працаўнік. *Ета такей тружынік, што на ўсю дзяреўню! Ён табе ні ночы ні дасыпіць, ні сядзець бяз дзела ні будзіць.* Сохана Мсцісл.

ТРУНА́, -ы, *ж.* Труна, дамавіна. *Труна ўжо гатова, кладзіце пакойніка.* Людагошч Мсцісл. *Пакойніка ўжо пылажылі ў труну.* Тур'я Чэрык. *Аўдоцьці зрабілі скляпістую труну.* Гарадок Раснян.

ТРУПЕ́ХАВЫЙ, *прым.* Трухлявы, збуцвелы, гнілы. *Трупехавыя дровы, дык ні гыраць.* Мсціслаў.

ТРУПЕ́ХЛЫЙ, *прым.* Трухлявы, збуцвелы, гнілы. *Бярвеньні трупехлыя, іх ні варта ў сьцяну класьць.* Васілеўка Хоцім.

ТРУС, -а, *м.* 1. *заал.* Трус. *Трус пабег ны грады.* Вародзькава Крыч. *Сяньні чорный трус згрыз два кычаны капусты.* Бяседавічы Хоцім. 2. Від бегу каня, трух, трушок.

*Спычатку конь бег галопым, а потым пірайшоў на трус, а тады і зусім хадою пышоў.* Палуж Краснап.

ТРУ́СІК, -а, *м.* Памянш. ад трус. 1. *Я выгныла з капусты трусіка, думыла, што ета зайчык.* Гібалы Касцюк. *У нас ёсьць пяць трусікаў: два чорных і тры белінькія.* Трубільня Краснап.

ТРУСІ́ЦЦА, *дзеясл.* Растрасацца, рассыпацца. *Чаму ты ні пыклаў драбіны ў мыжару, ато жыта будзя трусіцца.* Хвёдараўка Краснап. *Драбіны надзіваюць на мыжару, штоб сена ні трусілысь.* Арцёмаўка Міласл.

ТРУ́СІЦЬ, *дзеясл.* Імжаць. *Дожджык трусіць і трусіць, як праз сіта.* Гарцуеўка Краснап.

ТРУСО́К, -ска, *м.* Памянш. ад трус. 1. *Наш трусок вельмі сьмешны — станіць ны заднія лапкі ды трасець пярэдніміі.* Барысавічы Клім. *Я ўзяў двух труской ны развод — хай гадуюцца.* Пірагова Мсцісл. *Мяса труской мы ядзім, а з шкурак робім адзежу дзецям і сабе на зіму.* Барысавічы Клім.

ТРУСО́ЧЫК, -чка, *м.* Дробны хворост. *Па лесі ходзя і трусочык зьбірае. Трусочык ны цяпліішчы пацьмеў.* Бардзіч Краснап.

ТРУ́СЫМ, *прысл.* Трушком. *Трусым усю дарогу ехылі.* Палуж Краснап.

ТРУСЬ, -я, *м.* Трусік. *Дзе твой трусь падзеўсь? Ці ні сыбакі злавілі яго, падумалі, што заяц.* Ушакі Чэрык.

ТРУСЬЛІ́ВЫЙ, *прым.* Труслівы, баязлівы. *Трусьлівый, як заяц.* Сохана Мсцісл.

ТРУХ, -а, *м.* Трух, трушок. *Трух у твайго кыня нікрасівый — ногі рыскідаіць.* Тур'я Чэрык.

ТРУХАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Тузнуць. *Трухані кыня, ніхай скарэй едзя.* Палуж Краснап.

ТРУХЛЯ́ВЫЙ, *прым.* Трухлявы. *Пылок пыдняўся с трухлявый калоды.* Палуж Краснап.

ТРУ́ХНУЦЬ, *дзеясл.* Трухлець, гніць, парахнець. *Мой капот, вісеўшы ў чуланi, пычаў трухнуць.* Лешчынка Мсцісл.

ТРУ́ХЫМ, *прысл.* Трухам, трушком. *Мы ехылі ўсю дарогу трухым, хутка прыехылі.* Палуж Краснап.

ТРУ́ХЫЦЬ, *дзеясл.* Бегчы трухам, трушком. *Конь трухае патроху, а мы сядзім ны калёсах ды гутарым і ні бачым, што чылавек зы намі бягіць.* Слабада Крыч. *Мы з канём трухаім патроху.* Палуж Краснап.

ТРУ́ЦІНЬ, -я, *м.* 1. Труцень, пчала-самец. *Труцінь вялікі, большый зы пчалу.* Іванаўка Хоцім. 2. Гультай. *Труцінь ты, нічога ня дзелыіш, а толькі ясі!* Красоўка Калінінщчына.

ТРУЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Труціць. *Я купіў атруты: будзем ваўкоў труціць.* Бяседавічы Хоцім.

ТРУША́НКА, -і, *ж.* Струшанка, салома, змешаная з сепам. *Нада трушанкі каровым зьдзелыць. Салома тут ёсьць, а сена прынясі ды пірітрясі хырашэнька.* Арцёмаўка Міласл.

ТРУ́ШЧЫЦЬ, *дзеясл.* Трушчыць, ламаць на дробныя трэскі. *Са злосьці хлопіц палку трушчыць.* Палуж Краснап.

ТРУ́ШЫНКА, -і, *ж* Трушанка. *Увесь час кормім кароў трушынкый.* Палуж Краснап.

ТРЫ, *ліч.* Тры. *Атваж мне тры хунты сахыру.* Мсціслаў. *Выткыла сабе тры губычкі намёткі.* Барысавічы Клім. *Каню яшчэ трох год німа: ваўчкі яшчэ ня скінуў.* Хвёдараўка Краснап. *Узялі мы сабе трох падзёнынікаў ды змылацілі ўсё жыта.* Пірагова Мсцісл.

ТРЫВА́, -ы, *ж.* Трава. *А ны маёй дзілянкі трыва ладныя, касіць лёгка.* Парадзіна Мсцісл. *Сёліта позна сена косім: трыва пасохла, адзін быльнік зыстаўсь.* Слаўнае Мсцісл.

ТРЫВА́ЛЫЙ, *прым.* Трывалы. *С самыя раніцы без перыстанку косіць наш сусед. Трывалый чылавек!* Гібалы Касцюк.

ТРЫВА́ЛЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Трываласць. *Трывалысьць у етыга чылавека вялікыя: цэлы дзень, ня еўшы, работыіць.* Арцёмаўка Міласл.

ТРЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Трываць, цярпець. *Нільзя было трываць ад болі.* Гарадок Расняп.

ТРЫВО́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Трывожыць, рушыць. *Ня трывож яго, ніхай супачынець троху, ён жа ўсю ноч ні спаў.* Васілеўка Хоцім.

ТРЫ́ЗЬНІЦЬ, *дзеясл.* Трызніць, гаварыць праз сон. *Хворый усю ноч трызьніў.* Дубеец Касцюк. *Ён спаў на печкі, тады стаў нешта трызьніць; я хацела рызыбраць, ды нічога ні пыніла.* Арцёмаўка Міласл.

ТРЫ́ЙНЯ, -і, *ж.* Трайня. *Ныклаў воз, што аж трыйня чуць ня трэснула ад цяжбы.* Бязводзічы Мсцісл.

ТРЫЛІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Траляваць, вывозіць лес, бярвенні. *Лісасеку зрубілі, січас нада бярвеньні трыліваць.* Тур'я Чэрык. *Мы пычалі трыліваць бярвеньня.* Хвёдараўка Краснап.

ТРЫЛІ́СЬНІК, -а, *м. бат.* Трыліснік. *Трылісьнік бабы таксама зьбіраюць на лікарствы, толькі ня ведыю, навошта.* Пірагова Мсцісл.

ТРЫМА́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Трымацца, паводзіць сябе. *Ён трымаецца, як сталы чылавек.* Вародзькава Крыч. *Трымайся, браце, ня падай духам.* Шэвялёўшчына Мсцісл. 2. Трымацца за што. *Нада было трымацца за грыву, то ня ўпаў бы, ато конь утрюх, а ён — бух!* Ташна Касцюк.

ТРЫМА́ЦЬ, *дзеясл.* Трымаць. *Ёсьць выгады трымаць пародзістую скаціну.* Лешчынка Мсцісл. *Клін трымая ў баньцы касу.* Бязводзічы Мсцісл.

ТРЫНА́ЦЦАТЫЙ, *прым.* Трынаццаты. *Трынаццаты дзень ужо пайшоў, як яго німа.* Пархвёнава Мсцісл.

ТРЫНА́ЦЦАЦЬ, *ліч.* Трынаццаць. *Хата рубіцца ў трынаццаць вянкоў.* Вародзькава Крыч.

ТРЫ́НКА, -і, *ж.* Гульня ў карты. *Абыгралі мяне ў трынку.* Хвёдараўка Краснап.

ТРЫНО́ГА, -і, *ж.* Ражка. *Бяры трыногу ды пайдзем у лазьню.* Іванаўка Хоцім.

ТРЫНО́ЖКА, -і, *ж.* Трыножка. *Пыстаў трыножку на прыпік, буду бліны печ.* Студзянец Касцюк.

ТРЫ́НЧЫК, -а, *м.* Маленькая салдацкая торбачка. *Купіў у сылдата трынчык, ладна будзе ў дарогу што пыкласьці.* Хвёдараўка Краснап.

ТРЫПА́ЦЬ, *дзеясл.* Трапаць. *Дзеўкі пашлі ў сушню лён трыпаць.* Дубровіцы Клім.

ТРЫПЕ́РСЬЦІЦА, -ы, *ж.* Скулка паміж пальцамі. *У жонкі трыперсьціца — усю руку рызьнясло.* Хвёдараўка Краснап.

ТРЫПКА́Ч, -а, *м.* Трапкач. *Увяжы ў трыпкач два гаршчонычкі і нясі бацьку есьці.* Горкі Краснап.

ТРЫПЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Трапляцца, сустракацца. *Цяпер я з Ягорым кожный дзень трыпляюсь.* Канічы Касцюк.

ТРЫПУ́ТНІК, -а, *м. бат.* Трыпутнік, падарожнік. *Трыпутнікым прыкладзі скулку, скарей загоіцца.* Хвёдараўка Краснап.

ТРЫСКЫТНЯ́, -і, *ж.* Траскатня. *Тут можна аглохнуць ат етый трыскатні.* Сохана Мсцісл.

ТРЫСЬНІ́КОВЫЙ, *прым.* Трасніковы, трысняговы, зроблены з трысця. *У піпцы быў даўжэнный трысьніковый цубук.* Слаўнае Мсцісл.

ТРЫСЬЦЕ́Н, -а, *ж.* Трысцен, прыбудова з трох сцен. *У етый трысьцен лезіць дзесіць вазоў сена.* Бяседавічы Хоцім. *Ныклаў сена поўный трысьцен.* Касцюковічы. *Ныклаў сена быў поўный трысьцен, але ўжо ўсё стравіў.* Сапрынавічы Мсцісл.

ТРЫСЬЦЕ́НЬ, -я, *м.* Трысцень, вялікая ручайка пражы ў дзве або тры ніткі. *Цэлы трысьцень за дасьвецьця напрала.* Аршаншчына.

ТРЫСЬЦІ́ЦЬ, *дзеясл.* Трысціць, скручваць дзве або тры ніткі ў адну. *Нада ніткі трысьціць, ато шыць нечым.* Аршаншчына.

ТРЫСЬЦЬНІ́К, -а, *м.* Сухое галлё, хворост. *Пушукай трысьцьніка, каб развесьць касьцёр.* Хвёдараўка Краснап.

ТРЫХАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Страсянуць, патрэсці. *Ён як трыхануў яблыну, дык яблыкі й пасыпалісь.* Палуж Краснап.

ТРЫ́ЦЦЫЦЬ, -і, *ліч.* Трыццаць. *Трыццыць вярстоў праехылі біс пупасу, пыра ўжо коній пупасываць.* Палуж Краснап. *У чысьлінкі тры ніткі, а ў пасьме дзесіць чысьлінак, значыць — трыццыць нітак.* Парадзіна Мсцісл.

ТРЫ́ШКА, -і, *ж.* Баязлівы, нясмелы чалавек. *Эх, брат, трышка ты! Пубыяўсь туды йіціць.* Хвёдараўка Краснап.

ТРЫШЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Трашчаць. *Нешта нашы сьцены трышчаць пычалі — некыга з хаты выжываюць.* Пархвенава Мсцісл. *Як узышлі на речку ўсі гурбою, так лёд і пычаў трышчаць.* Мсціслаў.

ТРЫЯ́ЧКА, -і, *ж.* Траячка, тры рублі. *Дай яму трыячку ны дарогу, дык і хопіць з яго.* Палуж Краснап.

ТРЭ́БА, *прысл.* Трэба. *Трэба слухыць бацьку, ён к добрыму вучыць.* Канічы Касцюк. *Трэба чаго-нібудзь паесьць, а тады йіці ў лес.* Аршаншчына. *Адна жонка ў хыдзяйстві ні справіцца, трэба ныняць чалядку.* Бярозаўка Клінц.

ТРЭ́ПЛЯ, -і, *ж.* Пустая гутарка. *Твыя трэпля ўсім абрыдла: пляце, што сьліна к губе прынясецъ.* Хвёдараўка Краснап.

ТРЭ́СКА, -і, *ж.* Трэска. *Рубіў дровы, а трэска адляцела ды ў лоб, каб у вока, дык ба сьляпым быў. Прынясі тресык у хату.* Іванаўка Хоцім.

ТРЭ́СКЫЦЬ, *дзеясл.* Есці прагна. *Трэскый ужо, калі прырваўсь — усёдно што тры дні ні еў.* Хвёдараўка Краснап.

ТРЭСНУТЫЙ, *прым.* Трэснуты, паколаты. *Чайнік трэснутый, цякець.* Слаўнае Мсцісл.

ТРЭ́СНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Трэснуць, расколоцца. *Як кінуў бубен аб землю, дык бічайка трэснула.* Хвёдараўка Краснап. *Трэснуў лёд ат марозу.* Слабада Крыч. 2. Выцяць. *Схапіў даўбешку ды трэснуў яго пы гылаве.* Палуж Краснап.

ТРЭ́СЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад трэска. *Ідзі ны траскоўя, ныззбірай трэсычык.* Хвёдараўка Краснап.

ТРЭ́СЬЦІ, *дзеясл.* Трэсці. *Дос табе трэсьці гэты мяшок — ныдыла пылу, аж цёмна ў хаце.* Ушакі Чэрык.

ТРЭ́ЦІЙ, *прым.* Трэці. *Загінуў недзе наш сынок, ужо трэцій год пры яго нічога ня чулі.* Ушакі Чэрык. *Двух хлапцоў вывіў у людзі, а трэцьцій зыстаўсь неук.* Палуж Краснап.

ТРЮШКО́М, *прысл.* Трушком. *Конь бег трюшком.* Слаўнае Мсцісл. *Ён так сігаіць, што за ім трюшком беч ні пасьпееш.* Арцёмаўка Мілаcл.

ТРЮ́ШЧЫЦЬ, дзеясл. Трушчыць, ламаць на шчэпкі. *Узяў тапор і трюшчыць стары каткі с калёс.* Хвёдараўка Краснап.

ТРЯБУ́Х, -а, *м.* Трыбух, страўнік. *На руччы баба чысьціла авеччый трябух.* Гібалы Касцюк. *Карова сьпірша наб'ецъ трябух травой, а тады ўжо стаіць і жуець.* Янаўка Мсцісл.

ТРЯ́ПУШНІК, -а, *м.* Анучнік, скупшчык ануч. *Тряпушнік зьбіраець кыраўкі і адпрыўляіць іх ны фабрыку, а там з іх паперу ці што дзелыюць.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ТРЯПЫ́ШКА, -і, *ж.* Трапло. *Вазьмі тряпышку і пріхадзі тріпаць лён.* Бяседавічы Хоцім. *Зьдзелый мне тряпышку лягчэйшую, ато ат етый рука зыбаліць трыпаўшы.* Янаўка Мсцісл.

ТРЯ́СЦА, -ы, *ж.* Трасца. *Кылі каго трясца калоціць, дык яго кідыіць у холад ці ў жар.* Арцёмаўка Міласл. *Яго трясець трясца.* Бялішчына Мсцісл.

ТРЯСЬЦІ́, тре́сьць, *дзеясл.* Трэсці. *Адзеў бы ты што лепшыя, ато рахлюдзьдзім трясець.* Хвёдараўка Краснап. *Штоб цябе так цяцюха трісла!* Гібалы Касцюк.

ТРЯСЬЦІСЯ, тре́сца, *дзеясл.* Трэсціся. *Дзямід бегаіць, аж сесла трясецца.* Гібалы Касцюк.

ТРЯХНУЦЬ, *дзеясл.* Выцяць, ударыць. *Хацеў яму тряхнуць, штоб пумітаў, ды зьдзіржаўсь.* Шумячы.

ТСАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Адсадзіць, адбіць. *Як гаркнуў яго б землю, дык пячонкі тсадзіў.* Хвёдараўка Краснап.

ТСЕЧ, *дзеясл.* Адсекчы. *Трэба тсеч піряплёціну ў смык.* Хвёдараўка Краснап.

ТТУЛЬ, *прысл.* Адтуль. *Госьці пусьцілі-ся ттуль наўхыдыка.* Палуж Краснап.

ТУБУ́Н, -а, *м.* Гурт. *Тубун авец пасецца на полі.* Тур'я Чэрык.

ТУБУНО́М, *прысл.* Табуном, гуртам. *Як сыбяруцца тубуном ластыўкі ды пычануць літаць паўзьнізьзю, дык будзя дождж.* Палуж Краснап. *За етый дзеўкый дык хлопцы прама тубуном ходзюць.* Слабада Крыч.

ТУ́БЫЛІЦ, -льца, *м.* Тубылец. *Каб ета ж хоць тубыліц быў, ато ж прыблуда нейкій, яго тут ніхто і ні знаіць.* Бяседавічы Хоцім.

ТУВАРІШ, -а, *м.* Таварыш. *Туваріш, скажы, айдзе тут жывець старшыня сельсавету?* Хвёдараўка Краснап. *Ета мой туваріш, умесьці служылі.* Нізькі Касцюк.

ТУВАРІШЫВАЦЬ, *дзеясл.* Таварышаваць, быць таварышамі. *Саўсім пірімяніўся хлопіц, як стаў туварішываць з тым бысяком.* Бяседавічы Хоцім.

ТУГА́, -і, *ж.* Туга, сум. *Як пачула іна, што сына забілі — затужыла і памерла з тугі.* Бяседавічы Хоцім. *Туга нейкыя на серца лігла.* Пархвенава Мсцісл.

ТУ́ГА, *прысл.* Туга, цесна. *Дай ты свабоду дзіціняці — на што ты яго зьвізала етак туга!* Стары Дзедзін Міласл.

ТУДО́Ю, *прысл.* Тудою, тым кірункам. *Трэба іці тудою, куды пашлі дзеці.* Касцюковічы. *Мы пайдзем тудою, праз лес.* Сапрынавічы Мсцісл.

ТУДЫ́, *прысл.* Туды. *Жэўжык етый нарвішчым пралез туды.* Хвёдараўка Краснап. *Ня лезь туды, бо там гразка.* Забелышана Хоцім.

ТУДЫ́-СЮДЫ́, *прысл.* Туды-сюды, сяк-так. *Ну, зырабіўшы тры рублі ў дзень, яшчэ туды-сюды, можна жыць.* Паўлавічы Клім.

ТУ́ЖЫКІ СПРЫУЛЯ́ЦЬ. Тужыць. *Паехыў яе ўлюбёный ны вайну, дык іна цяпер тужыкі спрыўляіць.* Ясенка Краснап.

ТУЖЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Тужыць, сумаваць, гараваць. *Кінь ты тужыць па ім, усёдно ні верніш — дзяцей глядзі!* Слабада Крыч. *Затужылі кызакі, што зысталісь біз тыбакі.* Сохана Мсцісл.

ТУЗ, -а, *м.* Туз. *Мне пыпалась дама і туз аднэй масьці.* Лешчынка Мсцісл.

ТУ́ЗАЦЬ, *дзеясл.* Тузаць. *Ня тузай так, паволі цягні, ато ніткі парвеш.* Галоўчыцы Калініншчына.

ТУЛ, -а, *м.* Тыл, зад. *Тулым уперся ў сьцяну і стаіць.* Папоўшчына Мсцісл.

ТУЛМА́Ч, -а, *м.* Тлумач, перакладчык. *Што ён кажыць, ні паймеш: нада тулмыча прасіць, штоб рістлумачыў.* Восаў Краснап.

ТУЛМА́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Тлумачыць. *Я ім тулмачыў, што непынятна.* Мсціслаў. *Тулмачыў, тулмачыў, а йны ўсёдно нічога ні пынімаюць.* Бардзіч Краснап.

ТУ́ЛУВА, -а, *н.* Тулаў. *Во калеку я відзіў — адно тулува, ні рук, ні ног: атрезылі ны вайне.* Арцёмаўка Міласл.

ТУЛУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Дратаваць, таптаць. *Пусьціў коні ў жыта і ўсё патулуваў.* Куркаўшчына Мсцісл.

ТУЛУ́П, -а, *м.* Доўгі кажух. *Надзень тулуп, ато зьмерзьнеш.* Халдзееўка Хоцім. *Надзеў бацькый тулуп, дык увесь і схывайся з гылавой і ныгамі.* Асмолавічы Мсцісл.

ТУЛЯ́НЬНЕ, -я, *н.* Тулянне, хаванне. *Што ета за туляньне па заўгольлю, калі ты што маіш, то скажы проста.* Маркаўка Хоцім.

ТУЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Туляцца, хавацца. *Воўк туляецца ат ахотнікаў пы лясу.* Сохана Мсцісл. *Хто там туляецца па пуняй?* Маркаўка Хоцім. *Дос табе ўжо туляцца па сьвету, пыра дамоў ехыць, бацькі ўжо старыя, нядужыя.* Дубеец Касцюк. *Ну і дзікун ты, Андрэй, і чаго ты туляешся ад людзей.* Лешчынка Мсцісл.

ТУМАН, -у, *м.* Туман. *Ныд зямлёю павіс туман і сыпіцца дробныя, як пыл, рось.* Сохана Мсцісл. *Сена было сухоя, а посьлі туману так ныбрякла, што яшчэ два дні нада сушыць.* Слаўнае Мсцісл.

ТУ́МАР, ту́мырь, -а, *м.* Багач, кулак. *Сусед мой — тумар: у яго двоя коні і тры каровы.* Хвёдараўка Краснап. *У нас было шмат тумыраў, толькі іх раскулачылі.* Шумячы. *Тумырь-то еткій узяўся — пу рублю жэрствія даець, а сам босый ходзіць.* Кокатава Мсцісл. *У нашай вёсцы жывець бідныта, ні 'днаго тумыра німа.* Чыгрынаўка Раснян.

ТУПІ́ЦА, -ы, *ж.* Тупіца, тупая сякера. *Пыдай-ка тупіцу, нада пірясеч масол, ато так у гаршчок ня лезіць.* Бяседавічы Хоцім. *Вазьмі тупіцу ды адсячы ад калодзіжа лёд, ато ні падыйсьці.* Студзянец Касцюк. *Дай-ка тупіцу, гвозд пірасеч.* Хвёдараўка Краснап.

ТУПЫ́Й, *прым.* Тупы. *Жэлязьнік тупэй, ім кыпаць нільзя.* Халдзееўка Хоцім. *Тупоя шыла ня лезіць у ету падошву.* Крычаў.

ТУПЯ́ШКА, -і, *ж.* Гнілое палена. *Ны дварэ ляжыць тупяшка і сьвеціць увечыры, а я іду ды думаю, што ета магло быць?* Стары Дзедзін Міласл. *Тупяшка ты, а ні чылавек.* Хвёдараўка Краснап.

ТУРА́ЦЬ, *дзеясл.* Турыць, хутка ганяць. *Ні турай ты так іх, паволі ганi.* Кокатава Мсцісл.

ТУРБУВА́ЦЦА, *дзеясл.* Турбавацца, непакоіцца. *Ня турбуйся, я і сам дыстану.* Нізькі Касцюк. *Ні турбуйся, дзядуля, сядзі сабе.* Кокатава Мсцісл. *Ня турбуйся — сычас паедзім с табой.* Маластоўка Краснап.

ТУРБУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Турбаваць, непакоіць. *Ня хочыцца мне яго ноччу турбуваць.* Гібалы Касцюк.

ТУРГУВА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Таргавацъ. *Тургуваў я карову, хацеў купіць, ды ні пынывравілась — вымя дужа малоя.* Мсціслаў. 2. Гандляваць. *Якей жа тут смысіл так тургуваць — за што купіў, за тое і прыдываць прыходзіцца.* Касперка Хоцім.

ТУ́РКАЦЬ, *дзеясл.* Будзіць. *Туркай яго, маці, ніхай устаець, ато ён зыспаўся.* Гібалы Касцюк.

ТУ̂РКНУЦЬ, *дзеясл.* Праляцець з шумам. *Туркнула йкая-та птушка.* Хвёдараўка Краснап.

ТУРЛА́Й, -я, *м.* Гарлач, збанок. *Мылыка ныцадзіла цэлый турлай.* Хвёдараўка Краснап.

ТУ́РЛІК, -а, *м.* Памянш. ад турлай. *Турлік мылыка прынісла, рыжжылася ў суседзіў.* Ясенка Краснап.

ТУРЛУ́ШКА, -і, *ж. заал.* Глушэц. *Міхась сяньні турлушку забіў.* Тур'я Чэрык. *Яна глуха, як турлушка. Глухая ты турлушка.* Хвёдараўка Краснап.

ТУРМА́, -ы, *ж.* Турма, астрог. *Тут раней была турма.* Клімавічы. *Яго пысадзілі ў турму за сымагонку.* Маркаўка Хоцім.

ТУРО́К, турка́, *м.* Закавулак. *Ідзі ў етый турок, там яго хата.* Хвёдараўка Краснап.

ТУРПУЛЁК, -лька, *м.* Кароткае палена. *Укінь у печ турпулёк еты, ніхай згарыць.* Хвёдараўка Краснап.

ТУРПУ́ЛЬ, -я, *м.* Абрубак бервяна. *Турпуль ат шула атрезылі, дык і выляіцца ны дваре, нада яго пыкалоць ды спаліць.* Ясенка Краснап.

ТУРЧА́ЦЬ, *дзеясл.* Турчаць. *Жабы ў балоці кожны вечыр улетку турчаць.* Парадзіна Мсцісл.

ТУРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Турыць, хутка гнаць. *Куды ты іх так турыш? Пастух турыць статык двору.* Кокатава Мсцісл.

ТУСУВА́НЬНЯ, -я, *н.* Тасаванне, мяшанне карт перад ігрой. *Нікуда ні гадзіцца такоя тусуваньня: усі карты аднэй масьці ідуць.* Боханы Росл.

ТУСУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Тасаваць, мяшаць карты перад тым, як раздаваць на рукі для гульні. *Ён сыбраў карты і пычаў тусуваць, а тады рыздаў і пычалі іграць.* Арцёмаўка Міласл. *Тусуй карты луччы, штоб ні ліжалі аднэй масьці.* Шумячы.

ТУТ, *прысл.* Тут. *Тут беріг рякі атхоный.* Гібалы Касцюк. *Тут етый камень ляжыць спрадвеку.* Канічы Касцюк. *Кажуць, што тут нейдзі ў пана спытайнэй ход быў.* Лютня Краснап.

ТУ́ТА, *прысл.* Тут. *Тута мы знайшлі многа грыбоў.* Сохана Мсцісл. *Раньшы тута быў шынок* Хвёдараўка Краснап.

ТУ́ТАКА, *прысл.* Тут. *Тутака патужны шлях, дык і масты ставяць.* Гарадзец.

ТУ́ТАЦЬКА, *прысл.* Тут. *Ды вось тутацька, недалёка я жыву.* Мсціслаў. *Ён толькі што быў тутацька.* Васілёўка Хоцім. *Тутацькі была хата, ды згарэла.* Палуж Краснап.

ТУ́ТЫЦЬКА, *прысл.* Тут. *Ідзе табе баліць? Ды тутыцька, во, у плічах.* Слаўнае Мсцісл. *Ці Йван тутыцька?* Кокатава Мсцісл.

ТУ́ТЫШНІЙ, *прым.* Тутэйшы, з гэтае мясцовасці. *Ня бойсь яго, ён тутышній чылавек.* Палуж Краснап. *Ета жыціль тутышній, тут яго дзяды і прадзіды жылі.* Бяседавічы Хоцім.

ТУТЭ́ЙШЫЙ, *прым.* Тутэйшы, жыхар гэтага краю. *Хто з тутэйшых мужыкоў памятаіць прыгон?* Сохана Мсцісл.

ТУТЭ́ШНІЙ, *прым.* Тутэйшы. *Гэта тутэшні чылавек, ня бойсь.* Хвёдараўка Краснап. *Гэты дзядзька, як відна, ня тутэшній.* Тур'я Чэрык.

ТУЎКАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Таўхануць, піхнуць. *Пывярнуўсь і зьнеціўка туўкануў яго, а ён ужо і лаіцца.* Арцёмаўка Міласл.

ТУЎКА́ЦЬ, *дзеясл.* Таўхаць, піхаць. *Цялёнка туўкаюць к вымю, а ён яшчэ нічога ні знаіць, ні бярэць ссаць.* Машавая Бялынкав.

ТУУХАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Таўхануць. *Ён няўмысьля туўхануў мяне ў бок.* Слаўнае Мсцісл.

ТУЎШЧЫНЯ́, -і, *ж.* Таўшчыня, грубіня. *Зіма была лютая: ны ряке лёд быў пуўметра туўшчынёю.* Мсціслаў.

ТУХЛЁ, -я, *н.* Смурод. *Ад чаго тут такоя тухлё, што ажно нос на бок верніць?* Бяседавічы Хоцім.

ТУХЛЁЛЫЙ, *прым.* Смярдзючы. *Етыя сьцігно ўжу тухлелыя, яго сыбаку атдаць — самым есьць нільзя.* Б. Хутары Краснап.

ТУХЛЁЦЬ, *дзеясл.* Смярдзець. *Ета мяса іспорцілыся: яно ўжо тухліць.* Гарбавічы Касцюк. *Памыйніца поўна памыік стаіць у хаці, чаму ты яе ня вынісеш, яна ж тухліць.* Машавая Бялынкав. *На што ты блёкат ірвеш, ён жа тухліць.* Добрае Мсцісл.

ТУХЛЯ́К, -а, *м.* Лямпачка без шкла. *Красіну німа, дык во еты тухляк зыпалілі ды сядзім пры такім сьвятле.* Крычаў.

ТУХЛЯ́НКА, -і, *ж. бат.* Трава, смярдзючка. *Гарод зарос тухлянкаю.* Дубеец Касцюк.

ТУ́ХНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Тухнуць, гаснуць. *Што йта лямпа ўсё тухніць, красін з вадою ці што?* Забелышана Хоцім. 2. Смярдзець. *Мяса, лежачы ў хаці, пычало тухнуць.* Лешчынка Мсцісл.

ТУ́ЧА, -ы, *ж.* Хмара. *З захыду надзьвігаіцца туча — будзе дождж.* Сохана Мсцісл. *Барджэй ты варочайсь: туча находзіць, а сена ня гребіна.* Гібалы Касцюк. *Між туч блішчыць мыланка.* Вярбоўка Раснян.

ТУ́ШНАЕ, *прым.* Нясмачнае, нішчымнае, незапраўленае. *Адно тушнае ядзім увесь час, адкуль жа тая здароўя будзя.* Хвёдараўка Краснап.

ТУШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Тушыць, гасіць. *Пыгадзі тушыць агонь, я йшчэ ні разьдзеўся.* Лешчынка Мсцісл. *Тушы агонь ды кладзіся спаць, заўтры рана ўстываць.* Смольская Буда Бялынкав.

ТФУ, *выкл.* Цьфу. *Тфу ны цябе! Як ты мяне спужаў.* Малюшын Краснап. *Ета дзела нічога нівартыя. Тфу! Ні бярісь ты зы яго.* Дарагая Крыч.

ТХОР, -а, *м. заал.* Тхор. *Нешта ўночы куры раскудахылісь былі, ці ня тхор там зьявіўсь?* Пірагова Мсцісл. *Пынадзіўся тхорь хадзіць к курам, дык кожнью ноч ці трі, ці дзьве зьесць; нада пасытку пыставіць.* Арцёмаўка Міласл.

ТЫ, *займ.* Ты. *Што ты дзелыіш? Ты ж чылавека губіш сваім сьведчыньнім.* Вітрунь Касцюк. *Я зыходзіў к табе, але цябе ў дварэ ні было.* Пірагова Мсцісл.

ТЫБА́КА, -і, *ж.* Табака. *Пыдыражэла цяпер тыбака, хуць кінь курыць.* Лешчынка Мсцісл. *Мой дзед любіў нюхаць тыбаку.* Гібалы Касцюк. *У яго ў кісеці была тыбака, я відзіў, а як я пыпрасіў закурыць, дык ён сказаў, што тыбакі німа.* Арцёмаўка Міласл.

ТЫБАКЕ́РКА, -і, *ж.* Табакерка. *У яго тыбакерка з бірясты, сымадзельныя.* Касцюковічы. *Нюхнуў я тыбакі з дзедывый тыба-*

*керкі, дык як прыбраў мяне чох, проста дзеціа нейдзе.* Арцёмаўка Міласл.

ТЫБАТЭНКА, -а, *м.* Кабат. *Ай, які у цябе добрый тыбатэнка — ладна пашыт.* Новае Сяло Мсцісл.

ТЫВАР, -у, *м.* Тавар. *Нада тывар пыдзішавіць, дык яго скарей раскупюць.* Бяседавічы Хоцім. *Купцы паехылі зы тыварым.* Самацевічы Касцюк.

ТЫВАРЫШ, -а, *м.* Таварыш. *Ета мой тыварыш.* Гусарка Клім. *На што ты зьніважыў чылавека, ды йшчэ свайго тыварыша?* Слаўнае Мсцісл. *Трэба тывырышу пісьмо напісаць.* Гарадок Расням.

ТЫВАРЫШКА, -і, *ж.* Таварышка. *Ета яе тыварышка; яны дайно дружуць зь ёю.* Арцёмаўка Міласл. *Тыварышкі паміж сабой зьвялі плёткі.* Бродкі Крыч.

ТЫЙ, *займ.* Той. *Тый кусок сала я сышкварыла к блінам.* Пірагова Мсцісл. *Прыйдзя тый час, што й мы зажывём па-люцку.* Крычаў.

ТЫКЛЯ, -і, *ж.* Бляшанка на газу. *Вазьмі тыклю ны карасін ды схадзі ў кыпірацію, мо прывезьлі, то купіш літрый два.* Краснаполле.

ТЫЛ, -у, *м.* Тыл, зад. *Зайшоў з тылу і рукамі закрыў яму вочы.* Сохана Мсцісл.

ТЫЛАКНО, -а, *н.* Талакно, мука з паранага аўса. *Трэба спарыць авёс, тады ссушыць яго, тады абтаўчы; крупы, што выйдуць, ці змалоць ці стаўчы на муку — во і будзіць тылакно.* Брылёўка Краснап.

ТЫЛАНЬ, -і, *ж.* Талент, доля. *Німа мне ні ў чым тылані.* Горы Краснап. *Усё яму нішчасьціць, тылань яго, знаць, тыкая.* Васілеўка Хоцім. *Тыкая ўжу тылань яе: і ў маткі нідобра було і замужым, як у пеклі — быываіць нізыдача чылавеку.* Арцёмаўка Міласл.

ТЫЛАСНУЦЬ, *дзеясл.* Тузануць, пацягнуць рыўком. *Як тыласнуў за дроцік, так там і зазьвінела, а потым выходзіць мыладзіца і пытае, каго нам трэба.* Палуж Краснап.

ТЫЛЫКА, -і, *ж.* Талака, грамадская дапамога ў рабоце. *Мне сяньні ны тылаку прыехыла трыццыць падвод, дык мы зразу усю хату ўзялі.* Бяседавічы Хоцім.

ТЫЛЫКНЯНКА, -і, *ж. бат.* Ягада, талакнянка. *Заместа брушніц ныбраў тылыкнянык.* Хвёдараўка Краснап.

ТЫЛЫСКАЦЬ, *дзеясл.* Тузаць, цягаць. *Вось жулікі — абступілі хлыпца і дывай яго тылыскаць з усіх бакоў: той к сабе, а той к сабе, то ўшчыпне, то пыцягнець, што дзецца некуды.* Маластоўка Краснап.

ТЫЛЬЧЫЦЬ, *дзеясл.* Уціскаць, усаджваць у цеснае места. *Куды ты тыльчыш свайго кыня, тут і так цесна.* Мсціслаў.

ТЫМЧАСЫМ, *прысл.* Тым часам, паміж іншым. *Я тымчасым зыбягу ў лаўку, а ты зыпрыгай кыня.* Слаўнае Мсцісл. *Схадзі ныпаі коні, тымчасым і бульба зваріцца.* Гібалы Касцюк.

ТЫН, -у, *м.* 1. Тын, дошкі або бярвенні, якімі абкладваюцца сцены пограба, каб не абвальвалася зямля. *Тын згніў, і погріб абваліўсь.* Бяседавічы Хоцім. *Тын у пограбі новы.* Пухнава Расням. 2. Агароджа з дошак, прыбітых да жэрдак стаймя. *Я свой сад абнёс тынам.* Сохана Мсцісл.

ТЫНАБІЛЬ, -я, *м.* Аўтамабіль. *Нейкае нычальства, відаць, прыехала на тынабілі.* Шарэйкі Касцюк.

ТЫНК, -у, *м.* Тынк, матэрыял, якім забіваюць шчыліны ў сцяне. *Нада ныгатовіць тынку з хлоп'я, а тады пызыбіваць ім дзіркі.* Слаўнае Мсцісл.

ТЫНКУВАЦЬ, *дзеясл.* Тынкаваць, затыкаць шчыліны ў сцяне. *Нада раней тынкуваць хату пянькой, а тады ўжо шчыкатурыць.* Слаўнае Мсцісл.

ТЫНЦЫВАЦЬ, *дзеясл.* Скакаць. *Пайдзём сяньні ны вічарінку, там пыглядзім, як будуць тынцываць хлопцы з дзеўкымі.* Бяседавічы Хоцім.

ТЫРАХЦЕЦЬ, *дзеясл.* Тарахцець. *Нехта тырахціць па вуліцы.* Палуж Краснап.

ТЫРАЧЫЦЬ, *дзеясл.* Везці ў маленькай калясачцы. *Куды ты тырачыш дзіцёнка?* Палуж Краснап.

ТЫРБАНОШКА, -і, *ж.* Скураная машна для грошай, якую носяць на поясе. *З етый тырбаношкі нікалі капейка ні вываліцца.* Бяседавічы Хоцім.

ТЫРВАЦЬ, *дзеясл.* Трываць, цярпець. *Зайшліся рукі ад марозу, што ні магу тырваць.* Парадзіна Мсцісл.

ТЫРГАВЕЦ, -ўца, *м.* Гандляр. *Тыргаўца на коні німа.* Крычаў. *Пынаехылі купцытыргаўцы.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ТЫРГУВАЦЬ, *дзеясл.* Таргаваць. *Етыя людзі тыргувалі ў мяне карову.* Канахоўка Клім.

ТЫРІБАНІЦЬ, *дзеясл.* Тарабаніць, тараторыць, крычаць, шумець. *Кіньця вы тырібаніць, аж у гылаве шуміць!* Пірагова Мсцісл.

ТЫРКАНУЦЦА, *дзеясл.* Вытыркнуцца. *Зьнінацку з-зы вугла тырканўся сыбака, ну ды таго піріпужаў мяне, што ніяк і цяпер ні атыйду.* Слаўнае Мсцісл.

ТЫРМАШЫЦЬ, *дзеясл.* Тармашыць. *Ён пріняўся тырмашыць чылавека, якей ліжаў лі дарогі.* Лешчынка Мсцісл.

ТЫРПАЧЫК, -а, *м.* Зламаны ножык. *Ці етым тырпачыкам атрэжыш? Тут нада востры нож.* Палуж Краснап.

ТЫРСА, -ы, *ж.* Пілавіны, апілкі, смецце. *Тырса ляціць у вочы, што пілываць нельга.* Хвёдараўка Краснап.

ТЫРЧАЦЬ, тарчэць, *дзеясл.* Тырчаць. *Якія ты шкарпэткі надзела, пальцы тырчаць.* Слаўнае Мсцісл. *Казёл харошій гріб, корінь, праўда, дужа цьвёрдый, а шляпка жоўцінькыя з мыхрамі так і тырчыць сярёд сьвінухуў.* Арцёмаўка Міласл.

ТЫРЧМАКОМ, *прысл.* Тарчмаком. *Скінуўся 'ттуль тырчмаком.* Хвёдараўка Краснап.

ТЫРШМА, *прысл.* Тырчма. *Я ўпоцімку наткнуўся ны палена ды пыляцеў тыршма носым.* Слаўнае Мсцісл.

ТЫРЫВАТЫЙ, *прым.* Добры, шчодры. *Дзеўка тырыватыя — усё цягня с хаты.* Хвёдараўка Краснап.

ТЫРЬЧМА, *прысл.* Тырчма. *Кінуў кій ны сыбаку і пупаў тырьчма ў бок, аж зыскывытаў сыбака 'т болі.* Палуж Краснап.

ТЫСІЧА, -ы, *ж.* Тысяча. *У нас у вёсцы*

*тысіча лан зямлі.* Тур'я Чэрык. *Зы чавён плачу я сто рублей, ‖ Зы вясёлычку ажну тысічу.* З нар. песні, М. Г. 114.

ТЫТУ́Н, -а, *м.* Тытун, табака. *Нада пасеіць тытуну ў гародзе.* Слабада Крыч. *Мішчанка таргуець вунь там на бызары тытуном.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ТЫЎКАНІ́ЦА, -ы, *ж.* Вараная тоўчаная бульба, камы. *Малыя дзеці елі тыўканіцу.* Пацкава Мсцісл.

ТЫЎКА́Ч, -а, *м.* Таўкач. *Пятро — брахун вядомый, яго ў ступі тыўкачом ні пыймаіш.* Парадзіна Мсцісл.

ТЫЎКА́ЧЫК, -а, *м. бат.* Таўкачык, хвошч. *Многа тыўкачыкыў на полі расьцець.* Хвёдараўка Краснап.

ТЫЎПА́, -ы, *ж.* Натоўп, гурба людзей. *Цэлыя тыўпа народу сыбрялысь лі кыпіряціву.* Мсціслаў.

ТЫЎШЧЫНЯ́, -і, *ж.* Таўшчыня. *Купіў сабе дуба ны штандары ў хату дзьвінаццыць вяршкоў тыўшчыні.* Сохана Мсцісл.

ТЫХ-ТЫХ, *выкл.* Тах-тах, стук-стук. *А серца ў мяне тых-тых! Чуць ня выскачыць.* Бяседавічы Хоцім.

ТЫ́ХЫНЬНЯ, -я, *н.* Таханне, стук, біццё сэрца. *Тыхыньня ў цябе такоя ж частыя — дужа, верна, спужаўся.* Добрае Мсцісл.

ТЫ́ХЫЦЬ, *дзеясл.* Тахаць, стукаць, біцца. *Але ў цябе й серца часта тыхыіць!* Вітрунь Касцюк.

ТЫЦЯ́НА, -ы, *ж.* Уласнае імя Тацяна. *Тыцяна, памый ты пасьцілку, ато брудныя.* Свіслач.

ТЫ́ЧКА, -і, *ж.* 1. Завостраная палка, якою праводзяць баразёнку, як саджаюць гуркі. *Вядзі райней тычкай пы грядых.* Тур'я Чэрык. 2. Тычка, знак, вяха. *Я ны сваёй пыласе пыставіў тычкі, штоб ні пускалі скаціну і ні езьдзілі.* Хвёдараўка Краснап.

ТЫШНЫТА́, -ы, *ж.* Нуда, сумаванне. *З таго часу, як паехыў мой у зыработкі, нешта тышныта зыўлыдала мной, усё скучаю па ём.* Лешчынка Мсцісл.

ТЭЙ, *займ.* Той. *Куды ж тэй хлопіц дзіваўся?* Дубеец Касцюк. *Вунь тэй самы чылавек зноў панёс пырасёнка.* Мсціслаў. *Тэй самы, што ўсё ў чорнай сьвітцы гуляіць.* Вітрунь Касцюк. *Залі ты тэя мыхнаткі, штоб ні сьмядзілі.* Касцюковічы.

ТЭЙ-СЕЙ, *займ.* Сёй-той. *Прыдзіць к нам сёньня тэй-сей, прыходзь і ты.* Ушакі Чэрык.

ТЭСТА́МЕНТ, -у, *м.* Тэстамент. *Пысьля сьмерці бацька пакінуў тэстамент дзецім.* Сохана Мсцісл.

ТЮК-НА-КРУК, *прысл.* Кепска, дрэнна. *Маё здароўя саўсім ужо тюк-на-крук.* Куркаўшчына Мсцісл.

# У

У, *прыназ.* У. *Пашукай у стале, у скрынцы ножыка.* Гібалы Касцюк. *У сыбакі нашыга кроў з лапы йдзець.* Канічы Касцюк. *Я сабе зьвязала дзьве салхветкі: адну зялёную, а другую ў паскі.* Пірагова Мсцісл. *Нада гнаць скаціну ў поля.* Канічы Касцюк. *Вады ў сымувары ні хопіць на ўсіх.* Хоцімск.

У, *выкл.* У, ого. *У, якей вісокій сітнік!* Хвёдараўка Краснап. *У, як тут цёмна!* Затоны Расрян.

УАГУ́ЛЫМ, *прысл.* Агулам. *Я прыдаў жыта ўагулым, па восімдзісят капеік за пуд.* Цёмны Лес Расрян.

УБАЧЫЦЦА, *дзеясл.* Убачыцца, спаткацца. *Ну, бывай, убачымся шчэ, нам нада ўбачыцца.* Маластоўка Краснап.

УБАЧЫЦЬ, *дзеясл.* Убачыць. *Убачыў віраб'ёў і пычаў у іх каменьнямі шыбаць.* Старае Сяло Мсцісл. *Я думаў, што й сьвету ўжо больш ні ўбачу.* Ушакі Чэрык. *Ці прыдзецца мне калі ўбачыць сваю сям'ю?* Юшкі Мсцісл.

УБІВА́ЦЬ ЧАС, траціць час. *Вот зыняўся нейкый ірундой — толькі час дырма ўбіваіць.* Затоны Расрян.

УБІРА́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Убірацца, прыбірацца ў адзежу. *Дзеўка ўбіраецца на вечарінку.* Нашкавічы Мсцісл. 2. Уцякаць. *Што ты там дзелыіш, псіныя морда? Жыва аттуль убірайся!* Бяседавічы Хоцім.

УБІРА́ЦЦА У РО́ЗУМ, Станавіцца разумнейшым, сталым. *Малы ён яшчэ. Пачыкай, пыдрасьце, убярэцца ў розум — тады ня будзе так дзелыць.* Канахоўка Клім.

УБІРА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Убіраць, упрыгожваць. *Дзеўкі пыныбралі дзеразы і ўбіраюць залю.* Мсціслаў. 2. Есці з прагнасцю. *Дзіцёнык крайчык хлеба ўбірая.* Палуж Краснап.

УБІРЯГЧЫ́, убярэ́жч, *дзеясл.* Усцерагчы, дапільнаваць. *Ні надзейся ны яго пыгліданьня: ён ні ўбірягець, і сыбакі схвацюць мяса, луччы сам глядзі.* Арцёмаўка Міласл.

УБІРЯГЧЫ́СЯ, убярэ́жца, *дзеясл.* Усцерагчыся. *Ат яго не ўбіряжэсься: треба сачыць дый сачыць.* Гібалы Касцюк.

УБІ́ТЫЙ, *прым.* Убіты, увагнаты. *Кольля ўбіта наўхрысьць.* Палуж Краснап.

УБІ́ЦЬ, *дзеясл.* Забіць. *Ета пацеря грошы сусім уб'ець яго.* Слаўнае Мсцісл.

УБЛЫГЫТВАРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Здаволіць. *Я яго так ублыгытварый, што з горла папёрла.* Б. Хутары Краснап.

УБО́ГСТВА, -а, *н.* Убоства, бедната. *У іх такоя ўжо ўбогства, што й кызаць нільга: ні коніка, ні кароўкі, ні таго пырясёнка німа.* Затоны Расрян.

УБО́РНЫЙ, *прым.* Прыбраны. *Якей ён прыгожый, уборный!* Палуж Краснап.

УБО́РЫ, -аў, *мн. л.* Уборы. *У Іваныві дачкі шмат убораў, а ў мяне ні водныга.* Смолькаўская Буда Бялынкав.

УБРА́ЦЦА, *дзеясл.* Увабрацца, прыбрацца, адзецца. *Убярёмся ў другую адзежу, дык і ні пызная.* Палуж Краснап.

УБРА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Убраць, прыбраць. *Клясу сваю мы прыгожа ўбралі.* Забелышана Хоцім. 2. Убраць, звезці з поля. *Табе сёліта пашанціла: сена ныкасіў быгата і за пагоду ўбраў яго.* Гібалы Қасцюк. *Убяры аттуль бяльлё, ато куры абгаджваюць.* Пірагова Мсцісл.

УБРО́СІЦЬ, *дзеясл.* Укінуць. *Матулька ўбросіла затаўкі ў крупеню.* Вінаградаў Мсцісл.

УБУ́РІЦЦА, *дзеясл.* Абмачыцца. *Дзіцёнык увесь убурыўся, дай сухую пляхотку.* Хвёдараўка Краснап.

УБЭЙДАЦЬ, *дзеясл.* Забіць. *Народ уськінуўся на прыстыва і ўбэйдылі яго.* Маластоўка Краснап.

УБЭ́ХЫЦЦА, *дзеясл.* Убэхацца, улезці ў гразь, запэцкацца. *Абшаснуўсь нейк у кулдобіну і па поіс убэхыўся.* Горка Краснап.

УБЯЁДЫЦЬ, *дзеясл.* Убаёдаць, забіць. *Ён яго ўбяёдыя — ратуйця хлыпца.* Хвёдараўка Краснап.

УВА, *прыназ.* У. *Біз мужука дык іна стала пакорныя: сьвякрову цяпер ува ўсім слухаіць.* Арцёмаўка Міласл. *Ува ўсім сяле ні знойдзіш такога скынарюгі, як ён.* Маластоўка Краснап.

УВАБРА́НЫЙ, *прым.* Убраны, прыбраны, упрыгожаны. *Уся школа ўвабрана дзіразой.* Беразякі Краснап.

УВАБРА́ЦЦА, *дзеясл.* Убрацца, прыбрацца ў святочную адзежу. *Куды ты едак увабралыся?* Вербеж Чэрык.

УВАБРА́ЦЦА У ГАДЫ́. Дасягнуць сталага ўзросту, стаць дарослым. *Дзеўка ўжо ўвабралыся ў гады — ужо замуж можна 'ддываць.* Горка Краснап.

УВА́ГА, -і, *ж.* Павага. *Ды ўчыцiля ўсі адносюцца з увагый, усі яго любяць.* Мсціслаў.

УВА́ГНАЦЬ, *дзеясл.* Убіць, забіць [загнаць]. *Я ўвагнаў гвозд у дастку і ні рычапіў.* Лешчынка Мсцісл.

УВАГНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Пагнуцца пад цяжарам, прагнуцца. *Еты брус трэба падперці, ато ён увагнуўся.* Қасцюковічы.

УВАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Уводзіць. *Увадзіць у нашу веру.* Слаўнае Мсцісл.

УВА́ЖЛІВЫЙ, *прым.* Уважлівы. *Нашы суседзі — людзі ўважлівыя: у іх хуць што можна пазычыць, яны з усімі абходзяцца ласкава.* Сохана Мсцісл.

УВА́ЖЛІВЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Уважлівасць. *Мне ныравіцца ў яго ўважлівысьць к людзям.* Слаўнае Мсцісл. *Як увідзіў, што тут можна пажывіцца, дык аткуль у яго і ўважлівысьць пыявілась: і дзьверы адчыняе, і зэдлік пыдае.* Бяседавічы Хоцім.

УВАЖЫ́ЦЕЛЬНЫЙ, *прым.* Уважлівы, уважны. *Марка — харошый чылавек: нізавідлівый, уважыцельный.* Пірагова Мсцісл.

УВА́ЖЫЦЬ, *дзеясл.* Перапусціць, даваць. *Ён цябе ўдарыў, а ты б яму ўважыў — ты ж большы, разумнейшы.* Кокатава Мсцісл. *Ты мне ўваж троху, ці нічога ні ўважыш?* Палуж Краснап. *Асыбачыўся ты саўсім — ня хочыш і старому ўважыць.* Пірагова Мсцісл.

УВАЖЭ́НІЯ, -я, *н.* Павага. *Цяперь у дзяцей німа ніякыга ўважэнія ні к бацьку, ні к матκі, хуць ты яму кажы што, хуць не — ніякыга ўнімания.* Арцёмаўка Міласл.

УВАЗЬЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Разгневацца. *Бацька як увазьліўся, дык і слова ні скажы.* Палуж. Краснап.

УВАЙЦІ́, *дзеясл.* Увайсці. *Увайшоў я ў пуню і ашылапеў — ляжыць мой конь і ня дыхыіць.* Арцёмаўка Міласл. *Зывалілыся нейк бірвяно, што нільга і ў пуню ўвайці.* Залесавічы Крыч.

УВАЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Уваліцца, упасці. *Мыла бяльлё ны рацэ ды ўвалілыся ў пролубку.* Пірагова Мсцісл. *Ішоў па лёдзе ды чуць у паніўку ні ўваліўсь.* Вародзькава Крыч.

УВАЛО́КА, -і, *ж.* Валока, мера зямлі 18 дзесяцін. *У майго дзядзькі было тры ўвалокі зямлі. Увалока мае трыццаць маргоў.* Тур'я Чэрык.

УВАЛЬЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Уліць, наліць. *Ці будзіш есьць варьва, дык я табе увальлю?* Гібалы Қасцюк. *Накрышым хлеба ў ваду, увальлём алею ды будзім есьць.* Слаўнае Мсцісл.

УВАПРЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Упрэць, уварыцца. *Пыглядзі-ка крупеню, ці ўвапрела іна; калі ўвапрела, дык будзем абедаць.* Дубеец Қасцюк.

УВАСЬПЕ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Паспець. *Людзі ні ўвасьпелі нічога выцігнуць с пыжару — усё патлела.* Палуж Краснап. 2. Даспець, зрабіцца спелым. *Жыта яшчэ ні ўвасьпела.* Там жа.

УВАТКНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Уткнуць, усунуць. *Наш кот дужа бальшэй зброд, нійдзе нічога ні пыстаў — усюдых свой нос уваткнець.* Слаўнае Мсцісл.

УВАЎРЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Уваўрэць, спацець. *Во ўваўрэў бегшы — мокры ўвесь стаў.* Слаўнае Мсцісл.

УВАХО́Д, -у, *м.* Уваход, дзверы. *Уваход ў етую лаўку з двыра.* Клімавічы.

УВАХО́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Уваходзіць. *Глядзім — уваходзіць у хату нейкі нізнаёмый чылавек.* Пірагова Мсцісл.

УВАЧЧУ́, *прысл.* Уваччу, на вачах, нагла. *Во злодзій: уваччу хочыць абдурыць.* Дубеец Касцюк.

УВЕ́ДЫЦЬ, *дзеясл.* Даведацца. *Дывялось яму ўведыць, дзе стаіць сымагонка, дык патуль туды хадзіў, пакуль усю ня выпіў.* Бяседавічы Хоцім.

УВЕ́Р, -у, *м.* Упэўненасць. *Німа ў мяне ўверу, што скора кончыцца зіма.* Слаўнае Мсцісл. *Німа ўверу, што так будзя.* Палуж Краснап.

УВЕ́РІНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Упэўненасць. *У мяне ёсьць уверінысьць, што ў етым дзелі ён вінаватый.* Пацкава Мсцісл.

УВЁРТКІЙ, *прым.* Рухавы. *Ён увёрткій чылавек.* Хвёдараўка Краснап.

УВЕ́РЬХ, *прысл.* Угору, уверх. *Прістулкі на лесьвіцы дужа редкі, цяжка пыднімацца ўверьх.* Слаўнае Мсцісл.

УВЕ́СЬ, *займ.* Увесь. *Я ны табе ўвесь чыпяльнік пылымаю.* Крычаў. *У сажу ўвесь пыабдзелыўся.* Палуж Краснап. *У цябе ўся сьвітка ў дзядох, дзе ты іх ныбраўся?* Барысавічы Клім. *Гарюша іна — увесь свой век гарюіць.* Журбін Бялынкав.

УВЕ́ЧАРЫ, *прысл.* Увечары. *Учора ўвечары мы позна ны ганкых сядзелі.* Галоўчыцы Калінішчына.

УВЕ́ЧЫР, *прысл.* Увечары. *Січас мне некылі, хіба ўвечыр, як час будзя, зьдзелыім.* Барысавічы Клім. *Сяньні ў мяне абсейкі, прыходзь увечыр — вып'ем пы чарцы.* Добрае Мсцісл.

УВЕ́ЧЫРУ, *прысл.* Увечары. *Учора ўвечыру ён рысказывай нам, што нібыццым-та будуць высылаць атсюль усіх тумырый.* Старае Сяло Мсцісл.

УВЕ́ШЛІВЫЙ, *прым.* Чалавек з слабым сэрцам, задышлівы [і калека]. *Увешлівыму цяжка йціць угору.* Хвёдараўка Краснап.

УВІВА́ЦЬ, *дзеясл.* Увіваць, уплятаць. *Ні ўвівайця ў вянок жоўтых кветак, ні нада іх.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

УВІ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Убачыць. *Былазе я цябе ўвідзій.* Забалоцце Расняп. *Пыглядзі ў шчэлку, можа што ўвідзіш.* Бяседавічы Хоцім.

УВІЗА́ЦЬ, *дзеясл.* Увязаць. *Ці добра сена ўвізалі, ні рыстрасецца пы дарозі?* Юшкавічы Расняп. *Памог я ёй увізаць воз дроў, дык зарабій спасіб.* Пірагова Мсцісл.

УВІ́ЦЬ, *дзеясл.* Увіць. *Нада, війшы вожкі, увіць ласкут якей красный ці сіній для меткі, каб ніхто ні ўкрай.* Арцёмаўка Міласл.

УВО́ДЗІНЫ, аў, *мн. л.* Улазіны, вячэра з прычыны ўваходу ў новую хату. *Ты дойжын харошыя ўводзіны зьдзелыць, такую хату пастроійшы.* Сохана Мсцісл.

УВО́ДДЫЛІ, *прысл.* На адлегласці. *Уводдылі ат гумна сыбака спыймай зайца.* Палуж Краснап.

УВО́ММАЛЬ, *прысл.* Увобмаль, у малой колькасці. *Ніколі дасыта ні ныясіся — шчайлю і то увоммаль.* Хвёдараўка Краснап.

УВО́СІНЬ, *прысл.* Увосень. *Ета було ўвосінь, як зьвезьлі жыта.* Старае Сяло Мсцісл. *Увосінь і у ўвесну у нас тыкая гразь, што ні вылізьць.* Сутокі Мсцісл.

УВУБРА́НЫЙ, *прым.* Увабраны, убраны, упрыгожаны. *Увесь кут у хаце ўвубранэй у абразы.* Пірагова Мсцісл.

УВУБРА́ЦЬ, *дзеясл.* Убраць, упрыгожыць. *К сьвяту нада хату ўвубраць.* Залачова Мсцісл. *Празьнік ідзець, нада ўвубраць комныту.* Хвёдараўка Краснап.

УВЫБГА́ЦЬ, *дзеясл.* Прасунуць. *Замок етый маленькій, а ключ бальшэй, як кажуць: вялік маіш, ні ўвыбгаіш.* Мануйлы Краснап.

УВЫБРА́НЫЙ, *прым.* Увабраны, убраны, упрыгожаны. *Як прыгожа ўвыбрана быгыйня!* Хвёдараўка Краснап.

УВЫ́ЙЦІ, *дзеясл.* 1. Увайсці. *Увыйшлі яны ў хату, рысправуліся і пычалі ўмывацца.* Пірагова Мсцісл. 2. Выйсці, уцячы. *Рад бы я ацьцюля ўвыйці, ды німа як.* Усцінавічы Краснап.

УВЫКРА́СЬЦЬ, *дзеясл.* Украсці. *Сяначы ў аднае бабы ўвыкралі кубіл с салым.* Палуж Краснап.

УВЫРВА́ЦЦА, *дзеясл.* Уварвацца, увайсці з нахабнасцю. *Зачыні коўрыты, каб сьвіньні ні ўвырваліс у шкоду.* Палуж Краснап.

УВЫРВА́ЦЬ, *дзеясл.* Угрызці, адарваць. *Мяса такоя цьвёрдае, што зубамі ні ўвырваць.* Палуж Краснап.

УВЫ́СКЫЧКУ, *прысл.* Увыскачку, бегла, падскокваючы, наўскапыты. *Увыскычку панёсься ўдвору, як увідзій, што бацька прыехый.* Зяціца Мсцісл.

УВЫСЬМЯРЫХ, *прысл.* Увасьмёх. *Бірвяно ўвысьмярых ледзь на воз пыкалалі: во цяжолыя.* Пірагова Мсцісл.

УВЫСЬЦІ́, *дзеясл.* Увайсці. *Раней, чым увысьці ў хату, трэба выцерці ногі, а ні несьці пайвоза гразі.* Ушакі Чэрык.

УВЫ́ШКІ, *прысл.* Увышкі, вышыцёй. *У лесі мы бачылі мурвейнікаву кучу ў чылавека ўвышкі.* Слабада Расняп.

УВЯ́ЗЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Увязваць. *Нада воз увязывыць, ды задойка кырытка.* Бабынічы Мсцісл.

УВЯЗЬЦЬ, *дзеясл.* Увезці. *Увязі сена ў пуню, ато вун былачына йдзець, дождж, пэйна, будзіць.* Пірагова Мсцісл.

УВЯРЦЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Загарнуць, завязаць што-небудзь у хусцінку, паперку. *Грошы ўвярцела ў тряпычку і пыклала зы пазуху.* Маластоўка Краснап.

УВЯСНУ́, *прысл.* Увесну. *Увясну й аб'едзьдзя сыжрэць.* Сутокі Мсцісл. *Увясну дужа быльшая была затопа.* Палуж Краснап.

УГАВО́Р, -у, *м.* Умова. *У нас бый такей угавор, што калі мне ні пыныравіцца конь, дык я магу чыріз нядзелю грошы ныазад палучыць.* Арцёмаўка Міласл. *Угавор дыражэй грошы.* Слаўнае Мсцісл.

УГАВО́РА, -ы, *ж.* Умова. *Угаворы ў нас з ім ні было, штоб разым ехыць, а так сыбраліс аднача́сна.* Тур'я Краснап.

УГАВО́РІНЫЙ, *прым.* Дамоўлены. *Атдай грошы і ўгаворіный процынт — січас нікаму ні дойжын.* Аляксандраўка Краснап.

УГАВО́РНЫЙ, *прым.* Угаворны, уважны. *Сьмела зь ім гуварі, ён дужа ўгаворный чылавек — згодзіцца.* Палуж Краснап.

УГАВО́РЫНЫЙ, *прым.* Дамоўлены. *Яны прывязьлі нам угаворыный хлеб і склалі на гумне.* Пірагова Мсцісл.

УГАВО́РЬКА, -і, *ж.* Умова. *У іх угаворька — усё пупулам, так і жывуць дружна.* Восаў Краснап.

УГАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Дагадзіць. *Маёй сьвякрухі ўгадзіць трудна. Ей ніякій чорт ня ўгодзіць, а я ж-то ёй гадзіла.* Гарбавічы Касцюк.

УГАДЛІВА, *прысл.* Папераджальна. *Хызяйка ўгадліва пыдставіла яму зэдлік і выцерла пыл хвартухом.* Ушакі Чэрык.

УГАЛО́ЎНА, *прысл.* Неабходна, вельмі патрэбна. *Угалоўна трэба мне туды паехыць.* Палуж Краснап.

УГАМО́Н, -у, *м.* Угамон, супакой. *Цішыця вы, дзеці! Угамону ны вас німа! І што ета за дзітва!* Пірагова Мсцісл. *Угамону на іх німа, цэлый вечыр гылдзяць, аж у гылаве гудзець, калі яны ўжу ўсьціхаміруцца!* Арцёмаўка Міласл.

УГАМО́НІНЫЙ, *прым.* Угамаваны, супакоены. *Што зырабій? Кызала сьціхні, ні віряшчы, а ік дай бацька, тады сей угамоніный.* Боханы Росл.

УГАМО́НЬВЫЦЦА, *дзеясл.* Супакой-

вацца. *За дзень дзеці набегыюцца, накрічацца, аж пад вечырь угамоньвыюцца — скарей пыядуць ды спаць.* Крывы Лес Росл.

УГАМУВАНЫЙ, *прым.* Угамаваны, усціхаміраны. *Мае дзеці ўжу угамуваны, цяпер я хоць троху аддыхну.* Лешчынка Мсцісл.

УГАМУВАЦЦА, *дзеясл.* Угамавацца, заспакоіцца. *Дзеці ўгамуваліся і пыляглі спаць.* Сохана Мсцісл.

УГАМУВАЦЬ, *дзеясл.* Угамаваць, супакоіць. *Мне сьпірша нада дзяцей угамуваць, а тады ўжо ны работу йіціць.* Лешчынка Мсцісл.

УГАРОШЫЦЬ, *дзеясл.* Забіць. *Ні пасьпеў ён уцячы, спыймалі і ўгарошылі-такі.* Кокатава Мсцісл.

УГАРУ, *прысл.* Угару. *Угару цяжкывата везьці такі воз.* Добрае Мсцісл. *І чаго ты нос угару дзярэш, ці ні такі ты гылыдраніц, як і мы?* Слаўнае Мсцісл.

УГАРЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Чадзець. *Мы ўсе ўгарывылі ў тэй хаці.* Палуж Краснап.

УГАСЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Пачаставаць. *Такей у нас абычый — хто б ні прішоў у хату ў сянішній дзень, нада яго ўгасьціць і выпрывыдзіць, як госьця.* Бяседавічы Хоцім.

УГАЦЬ, *дзеясл.* Ілгаць, хлусіць. *Дос табе ўжо ўгаць, усёдно ніхто ні паверыць.* Людагошч Мсцісл. *Думаіш, што ета праўда? Ён угець!* Іванаўка Хоцім. *Ня вер яму — ён любіць угаць.* Арцёмаўка Міласл. *Яна ўжэць добра.* Галоўчыцы Калінінішчына.

УГЛЕДЗІЦЬ, *дзеясл.* Угледзець, убачыць. *Спалыхнуў мой двор, і я ня ўгледзіў.* Хвёдараўка Краснап. *Як угледжу ружжо, дык мяне жудысьць бярэ.* Парадзіна Мсцісл.

УГЛЕДЛІВЫЙ, *прым.* [Той, які ўсё бачыць], бачлівы. *Угледлівый хлапец — нічога ат яго ні схуваіцца.* Палуж Краснап.

УГЛЫБКІ, *прысл.* Углыбкі. *Ужо двынаццыць сажын углыбкі выкыпалі калодзісь, а вады ўсё німа.* Добрае Мсцісл.

УГНАІЦЬ, *дзеясл.* Угнаіць, навазіць гною. *Каб добра ўгнаіць ету зямлю, дыкба мо' што й вырысла пасеійшы.* Глупікі Крыч.

УГНОЙВЫЦЬ, *дзеясл.* Угнойваць. *Зімля ўжо выпыхылась, яе нада ўгнойвыць.* Сохана Мсцісл.

УГНЯВІЦЬ, *дзеясл.* Угнявіць. *Угнявілі мы сына сваімі прыставаньнімі — ужо другі дзень ня хочыць з намі гаварыць.* Ушакі Чэрык.

УГОДКІ, -ыў, *мн. л.* Угодкі, гадавіна. *Хадзіла к папу служыць па бацьку паніхвіду: сяньні якраз угодкі па ём.* Гарбавічы Касцюк. *Прасіў бацька вас на панахвіду і на 'бед: заўтра ўгодкі па матцы.* Пірагова Мсцісл.

УГРЕШНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Пагрэшнасць, памылка. *У падліцы дапушчына угрешнысьць.* Маластоўка Краснап.

УГРУЗІЦЬ, *дзеясл.* Угрузіць, усадзіць у гразь, балота. *Угрузіў кыня ў дрыгву, а цяпер ня ведыю, як выцігнуць.* Палуж Краснап.

УГРУНЬ, *прысл.* Угрунь, бегам. *Нешта Ягор дык угрунь, угрунь пабег.* Добрае Мсцісл.

УГРЭХ, -а, *м.* Агрэх. *Плугым зрабіў угрэх.* Хвёдараўка Краснап. *Зімля плоха ўзоріна — угрэхый быгата надзелый арец.* Палуж Краснап.

УГУН, -а, *м.* Ілгун. *Ня вер яму, ён угун, ніколі табе праўды ні скажыць.* Арцёмаўка Міласл.

УГЫВАРІВЫЦЦА, *дзеясл.* Дамаўляцца. *Яны сталі ўгыварівыцца, айдзе б ім сустрэцца.* Арцёмаўка Міласл.

УГЫВАРІВЫЦЬ, *дзеясл.* Угаворваць. *Бацькі ўгыварiюць хлыпца жаніцца, а ён атмыгаіцца.* Б. Хутары Краснап.

УГЫВАРІЦЬ, *дзеясл.* Уговарыць. *Угыварій ён мяне, асьмеліў, цяпер ужо ні баюся.* Пірагова Мсцісл.

УГЫМАНЕНЬНЯ, -я, *н.* Угамон [супакой]. *Ніякыга на іх угыманеньня нет, на етых ірідый, нічога ні чуць за іх лоскытым.* Крывы Лес Росл.

УГЫМАНІЦЦА, *дзеясл.* Угаманіцца, супакоіцца. *Крікні ны дзяцей, ніхай так ні крічаць, пыра ўжу ўгыманіцца і спаць лажыцца, ато яны пывячэрыўшы цяпер будуць да паўночы ашыліваць.* Арцёмаўка Міласл.

УГЫМАНІЦЬ, *дзеясл.* Угаманіць, супакоіць. *Ну, угыманіла дзяцей, цяпер сыма спаць лягу.* Пірагова Мсцісл.

УДАВА, -ы, *ж.* Удава. *Мой швагра нешта заніпаў, баюсь, каб сістра ўдавою ні зысталыся.* Лешчынка Мсцісл.

УДАВЕЦ, -ўца, *м.* Удавец. *Удавец думая жаніцца.* Міцькаўшчына Мсцісл.

УДАЛЕЙ, *прысл.* Лепш. *Ны 'трубах удалей жыць.* Мядвёдаўка Краснап.

УДАЛЫЙ, *прым.* Удалы, ладны. *Купіў я сабе кыбанчыка, да нейкі не ўдалы — ня есьць.* Восаў Краснап.

УДАЛЫЙ, *прым.* Удалы. *Ён быў удалэй хлопчык.* Хоцімск.

УДАРІЦЦА, *дзеясл.* Выцяцца, стукнуцца. *Як ударійся лысінаю аб прітылку, дык аж кгуз ускачыў на лысіні.* Арцёмаўка Міласл. *Глядзі, ато дзіцёнык ударіцца аб пол і акрывавіцца.* Канічы Касцюк.

УДАРІЦЬ, *дзеясл.* Выцяць, стукнуць. *Ета ж трэба адважыцца ўдаріць чылавека нажом.* Лешчынка Мсцісл. *Іван дужа болна ўдарій сабе ногу.* Гарбавічы Касцюк. *Гром ударій у бярёзу, дык і рышчапій.* Гарадок Міласл.

УДАРЫЦЦА, *дзеясл.* Выцяцца, стукнуцца. *Ударыўся гылавою аб пятнік.* Машавая Бялынкав. *Ударыўся гылавою аб брыж стыла і расьсек сабе скуру.* Сохана Мсцісл.

УДАРЫЦЬ, *дзеясл.* Выцяць, стукнуць. *Хлопчык хацеў кіем ударыць сыбаку.* Капахоўка Клім. *С адскокі пулій ударыла.* Каробчына Мсцісл.

УДАСЦА, *дзеясл.* Удасца. *Хлеб удаўся, так падышоў і румяныя скарынка.* Васілёўка Хоцім. *Гарт у касе дужа ўдаўся.* Хвёдараўка Краснап. *Удаліся прыснакі сяньні, добры смак маюць.* Добрае Мсцісл.

УДАТНА, *прысл.* Удала, прыдатна. *Удатна мне дывялось купіць цёлычку — на*

*той год будзіць свыя карова.* Лютня Краснап.

УДАЎНІ, *прысл.* Даўней, у старыя часы. *Удаўні людзі жылі ўсё роўна, як зьверы.* Лешчынка Мсцісл.

УДАЎНІЦЦА, *дзеясл.* Задаўніцца, запусціцца. *Балезьня мыя ўдаўнілыся.* Мядвёдаўка Краснап.

УДА́ЧА, -ы, *ж.* Удача, шчасце. *Бязгодушка мыя, куды ні пывярнісь, нідзе мне ўдачы німа, ні ў чым мне ня йдзець.* Арцёмаўка Міласл.

УДАЧЛІВА, *прысл.* Удачліва, добра. *Удачліва я купіў сабе кыня: добры конь і ні дырагі.* Бяседавічы Хоцім.

УДАЧЛІВЫЙ, *прым.* Удачлівы. *Сей год быў дужа ўдачлівэй на ўрыджай.* Дзянісавічы Навазыбк.

УДВАЁХ, *прысл.* Удвух. *Мы ўдваёх сь Сяргеім ўзялі луг у варэнду.* Палуж Краснап.

УДВАІХ, *прысл.* Удвух. *Мы ўдваіх сядзем у вазку, а ты ны сядзеньні.* Пірагова Мсцісл. *Міхей з бацькам удваіх скасілі за дзень лог.* Палуж Краснап.

УДВО́РУ, *прысл.* Дамоў, дадому. *Калі йсьці адваротна ўдвору, то неяк хутчэй здаецца.* Нашкавічы Мсцісл. *Мы прышлі ўдвору, як сонца зайшло.* Палуж Краснап. *Адпусьцеце мяне ўдвору, бо ўжо хлеба німа.* Мсціслаў.

УДВО́РЫЧКУ, *прысл.* Памянш. ад удвору. *Нічыпырка, пайдзем удворычку, гадзі табе бусываць.* Новы Свет Краснап. *Мыланычка Йвану ‖ Усі бакі 'ттыўхала, ‖ Удворычку звала.* З нар. песні, М. Г. 34.

УДВО́Х, *прысл.* Удвух. *Учора Міхась і Ганна ўдвох бегылі ў лес.* Добрае Мсцісл.

УДВУ́Х, *прысл.* Удвух. *Мы з Іванам удвух пайдзём у рыбу.* Добрае Мсцісл.

УДВЫЯ́, *прысл.* Удвая. *Я ж удвыя старі зы яго: мне сорык год, а яму ўсяго дваццыць.* Касперка Міласл.

УДЗЕ́НКІ, *мн. л.* На ўвесь дзень. *Раньшы гынялі кароў ны ранкі, а цяпер будуць гыняць на ўдзенкі.* Хвёдараўка Краснап.

УДЗЕ́НЬ, *прысл.* Удзень. *Кінь ты ляпыць тут упоцімку, заўтрі ўдзень ета зробіш.* Нашкавічы Мсцісл. *Удзень-такі ні ўночы, лепш ехыць.* Зарубец Крыч.

УДЗЕ́РЖ, -у, *м.* Утрымка, прыпынак. *Удзержку ёй німа, як зысьмяецца, дык глядзі, што лопніць ат сьмеху.* Арцёмаўка Міласл.

УДЗЕ́РЖЫЦЦА, *дзеясл.* Утрымацца. *Як ні як нам нада ўдзержыцца тут, пакуль пыдасьпеіць помыч.* Бяседавічы Хоцім.

УДЗЕ́РЖЫЦЬ, *дзеясл.* Утрымаць. *Каровы гіжуюць, дык ні ўдзержыш — бягуць у жыта.* Янава Расням. *У сквар ат жары і ат мух і ваднёў скаціну нільзя на полі ўдзержыць.* Сохана Мсцісл.

УДЗЁСА, -ы, *м.* Штукар, смехатвор. *Хлопец-удзёса — усіх расьсьмеша.* Маластоўка Краснап.

УДЗЕСЯЦЁХ, *прысл.* Удзесяцёх. *Ну й дужы хлопец, яго ўдзесяцёх ня здужыюць.* Дарагая Крыч.

УДЗЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Зацягнуць, уцягнуць. *Ні магу ніткі ў голку ўдзець — сьліпая ўжо.* Канахоўка Клім. *Удзень у баньку прыкосьнік.* Хвёдараўка Краснап.

УДЗІВІЦЯРО́Х, *прысл.* Удзевяцёх. *Удзівіцярох узялісь выкыпаць кынаву за дзень.* Пірагова Мсцісл

УДЗІРЖАЦЦА, *дзеясл.* Утрымацца. *Як празьнік, дык ужу і карціць яму выпіць; ня можыць удзіржацца, пасьледнюю капейку прап'ець.* Арцёмаўка Міласл.

УДЗЬВЮ́Х, *прысл.* Удзвюх. *Мы ўдзьвюх з Нытальляй прыдзем ды цябе сяньні ўвечыры.* Лешчынка Мсцісл.

УДО́БРЫЦЦА, *дзеясл.* Зрабіцца добрым. *Нада яго пыпрасіць і хабыру даць, дык ён удобрыцца і зьдзелыіць.* Арцёмаўка Міласл. *Як ні сярдуіць матка ны дзяцей, а ўдобрыцца і пыжалеіць.* Сохана Мсцісл.

УДО́ВЫЙ, *прым.* Удавец. *Янка так і жывець удовы, а жаніцца ні хочыць.* Касцюшкавічы Крыч.

УДО́ВЫЖКІ, *прысл.* Удаўжкі. *Удовыжкі хата была дзесіць аршын, а ўшыркі — восім.* Слаўнае Мсцісл.

УДО́ВЫЛЬ, *прысл.* Удосталь, уволю. *Мы каровым даём удовыль сена, дайжа ні зьідаюць.* Арцёмаўка Міласл.

УДО́СТЫЛЬ, *прысл.* Удосталь, уволю. *Такая іх жызьня — удостыль хлеба ні маюць, ні то што.* Гарадзец Бабр.

УДО́ЎЖ, *прысл.* Удоўж, удаўжкі. *Яго пылыса як удоўж, так і ўпыпярок заскароджана.* Добрае Мсцісл. *Пулумай пахыту, тады едзь удоўж.* Хвёдараўка Краснап.

УДО́ЎЖКІ, *прысл.* Удоўж. *Наш Слаўка як удоўжкі, так і ўпопірік.* Лешчынка Мсцісл.

УДРАЖНІЦЬ, *дзеясл.* Раздражніць. *Бырані божа рожу ўдражніць — ні вылячыць.* Парадзіна Мсцісл. *Удражніў хлыпца, аж плачыць.* Цівецкая Краснап.

УДРАТУВАЦЬ, *дзеясл.* Збіць нагамі, стаптаць. *Бізь яслій кініць корм у кут, а конь рысьцягніць пад ногі, удратуіць у гной і стаіць так галодный.* Камароўка Крыч.

УДРА́ЦЬ КО́ЗЫРЯ. Выкінуць штуку. *Я ім удраў козыря, што аж вочы вылупілі.* Тур'я Краснап.

УДРУ́Г, *прысл.* У адну хвіліну, як бачыш. *Дывай грошы, я ўдруг зьбегыю і прынясу — адна ныга тут, а другая там.* Палуж Краснап.

УДЫВАЦЦА, *дзеясл.* 1. Удавацца, добра ісці. *Во, бываіць удача чылавеку, за што б ні ўзяўся ўсё яму ўдаецца.* Арцёмаўка Міласл. 2. Удавацца, быць падобным. *Дычка ў матку ўдылася: маткіны вочы, бровы, маткіны й пынароўкі.* Палуж Краснап. 3. Удавацца, углыбляцца, захапляцца. *Ні ўдывайся дужа ў навуку: здароўя страціш.* Маластоўка Краснап.

УДЫДА́ТЫК, *прысл.* Дадаткова. *Удыдатык ён даў пырясёнка, апріч таго, што дыгываріліcь.* Казельская Буда Краснап.

УДЫР, -у, *м.* Удар, стук. *Ен ніяк ня мог атчуныць ат удыру па гылаве.* Ушакі Чэрык.

УДЫ́РЫЦЬ, *дзеясл.* Выцяць. *Удырыў ён бенную кабылу па крыжавіні, аж увагнулась.* Ушакі Чэрык.

УЕДНАЦЦА, *дзеясл.* Пагадзіцца, памірыцца. *Раньшы яны сварыліс, а цяпер ужо ўедналіся.* Хвёдараўка Краснап.

УЕЖНА, *прысл.* Добра ў сэнсе яды. *Жывём ня ўежна, затое ўлежна. Уежна, відаць, жыве — шыя тоўстыя.* Сохана Мсцісл.

УЕЗД, -а, *м.* Прыезд. *Ні часта бувая ваш уезд ак нам.* Палуж Краснап.

УЕСЦА, *дзеясл.* Уесціся. *Уелысь яму ета хвароба, высах на шчэпку.* Добрае Мсцісл.

УЕХЫЦЬ, *дзеясл.* Праехаць, ад'ехаць. *Ці многа мы ўехылі? А вярстоў пяць уехылі ўжо. У такую сьпякоту ні ўедзіш многа.* Палуж Краснап.

УЖАЛЕЦЬ, *дзеясл.* Зварыцца ў духу без вады, утушыцца, усмажыцца. *Бульба ўжалела, аж красныя стала.* Хвёдараўка Краснап.

УЖАРЫЦЦА, *дзеясл.* Спячыся. *Бульба ўжарылыся, можна сьнедаць.* Восаў Краснап.

УЖЖАЛІЦЦА, *дзеясл.* Зжаліцца, злітавацца. *Баба ужжалілыся над дзіцёнкым.* Палуж Краснап.

УЖО, ужу, ужы, *прысл.* Ужо. *Ужо і горад блізка, а йці німа сілы — прыстала я саўсім.* Лешчынка Мсцісл. *Ужо другей месіц пайшоў, як мой паехыў, а нічога ня пішыць.* Крычаў. *Садзісь, кумок, там на слоніц, ато лаўкі ўсі ўжо заніты.* Бяседавічы Хоцім. *Яблыкі летнія ўжу пасьпелі, скора і сьліўкі пасьпеюць — ужу красныя сталі.* Арцёмаўка Міласл. *Хата ўжу пасьці гатова, толькі накрыць ды вокны зьдзелыць.* Новы Дзедзін Міласл. *Скарей зьбірайся, я даўно ўжы ныгатові.* Лешчынка Мсцісл.

УЖЫВАНЬНЕ, -я, *н.* Ужыванне. *Ад доўгыга ўжываньня гарэлкі нос дзелыіцца сізым.* Сохана Мсцісл.

УЖЫВАЦЦА, *дзеясл.* Ужывацца. *Шчаўлюк меець лісьцікі, як шчавель, толькі вузей. У яду ня ўжываецца.* Пірагова Мсцісл.

УЖЫВАЦЬ, *дзеясл.* Ужываць, спажываць. *Дзякую, я гарэлкі ня ўжываю.* Сохана Мсцісл.

УЖЫГНУЦЦА, *дзеясл.* Жахнуцца, спалохацца. *Баба прашнулыся, ужыгнулыся, што грошый німа, нехта с кішэні выцігнуў.* Новая Ельня Краснап.

УЖЫЦЬ, *дзеясл.* Пражыць. *Хто ету травычку сьйрвець — меньшы году ні ўжывець.* Палуж Краснап.

УЖЭ, *прысл.* Ужо. *Ужэ месік узыйшоў, як мы прыехылі ўдвору.* Таўстукі Стрэш.

УЗАД, *прысл.* Назад. *Во пупаўсь, як у нерыт: ні ўзад, ні ўперыд.* Гібалы Касцюк.

УЗАМУЖ, *прысл.* Замуж. *Дзеўку абніславілі, цяпер ніхто яе ўзамуж ня возьмя.* Дзіснакіта Мсцісл.

УЗАМУЖКІ, *прысл.* Замуж. *Тэкля пышла ўзамужкі ў Ясенку за Хвёдыра кывыля.* Палуж Краснап.

УЗАПАР, *прысл.* Запар, падрад. *Дзьве нядзелі ўзапар мылацілі.* Пірагова Мсцісл.

УЗАПІЧКУ, *прысл.* Узапечку, за печчу. *Ого, якей ты храбрый узапічку, а выйдзі зы парог, дык і напусьціш.* Ганнаўка Клім.

УЗБУДЖАЦЦА, *дзеясл.* Прабуджацца, прачынацца. *Сьпіць ніспакойна, часта ўзбуджаіцца і есьць ні хочыць: быдай зыбалеў.* Карма-Пайкі Краснап.

УЗБУДЖЫНЫЙ, *прым.* Разбуджаны. *Ен схапіўсь, узбуджыный грюкытым, і ні сыбріжаіць, што нада дзелыць.* Серчыцы Краснап.

УЗБУДЗІЦЬ, *дзеясл.* Разбудзіць. *Дос яму спаць, нада яго ўзбудзіць, бо пыра ўжу ехыць.* Арцёмаўка Міласл. *Ня скрыпый дзьвярьмі, ато ўзбудзіш бацьку.* Канічы Касцюк.

УЗБУДЛІВЫЙ, *прым.* Які лёгка прачынаецца. *Дужа ўзбудлівыя іна: вот сьпіць, а толькі шывяльніс кыла яе — ужо ўзбудзілысь.* Таўстукі Стрэш.

УЗБУДУВАЦЬ, *дзеясл.* Пабудаваць. *Лукаш узбудуваў клець.* Зялёны Луг Мсцісл.

УЗВАЛАК, -лка, *м.* Узгорак, адхон, схіл. *На ўзвалку жыта ніколі не атапрее.* Пятухоўка Чав. *Узвалак скарэй высыхая, бо выда сьцікая.* Башары Расняп.

УЗВАЛІЦЦА, *дзеясл.* Узваліцца, наваліцца. *Ты, Іван, кылі ны мяне ўзваліська, дык усяго рызмяжджуліш.* Канічы Касцюк.

УЗВАЛЬЛЕ, -я, *н.* Адхон, скат луга. *Ны нашым узвальлі сёліта ўся трыва пыпавыгырыла, такога жаркыга лета дык я і ня помню.* Добрае Мсцісл.

УЗВАРАЦІЦЬ, *дзеясл.* Вярнуць назад. *Узвараці мне пазычанае насеньне.* Смолькаўская Буда Бялынкав.

УЗВАРОТ, -у, *м.* Зварот. *Штоб табе і ўзвароту ні було, гаду такому!* Хвёдараўка Краснап.

УЗГАДКА, -і, *ж.* Прыпамін. *Сыбяруцца бабы і пачынаюць узгадкі, дзе і што было з кожный.* Дубеец Касцюк.

УЗГАРДА, -ы, *ж.* Пагарда. *О, ён варты ўзгарды — гэста ж такая гадзіна, што й сьвет ні відзіў!* Ушакі Чэрык.

УЗГАРДНА, *прысл.* Пагардна. *Яна так узгардна глянула на іго, быццым гэста ні чылавек, а сыбака.* Ушакі Чэрык.

УЗГЛЯД, -а, *м.* Погляд. *Вот ета дзеўка! Адзін узгляд чаго стоіць.* Боханы Росл.

УЗГОРАК, -рка, *м.* Узгорак. *У мяне на ўзгорку сёліта зырадзіла жыта, што ні касіць ні жаць ня можна.* Добрае Мсцісл.

УЗДАЦЬ, *дзеясл.* Ліпуць. *Уздай-ка вады на сьпіну.* Хвёдараўка Краснап.

УЗДЗЕРЦЬ, *дзеясл.* Узлаваць. *Ды яго нядоўга ўздзерць, пыкызаў язык — і гатова.* Добрае Мсцісл.

УЗДОЛІЦЬ, *дзеясл.* Здолець, змагчы. *Такую пішч еўшы, ня ўздоліш с касой хадзіць.* Палуж Краснап.

УЗДУМАЦЬ, *дзеясл.* Надумаць, задумаць. *Сымаволец! Што ўздумаець, то й дзелаець, нікога й слухаць ні хочыць.* Дубеец Касцюк. *Што й та ты ўздумаў с сабой рабіць — пагібілі хочыш ці што?* Палуж Краснап. *Вот жа ўздумаў нешта рабіць.* Маркаўка Хоцім.

УЗДУХВІНА, -ы, *ж.* Уздухавіна, ніз

грудной клеткі. *Як даў мне пад уздухвіну, дык і дух зьняло.* Хвёдараўка Краснап.

УЗДЫВАЦЦА, *дзеясл.* Спадзявацца. *Нечыга на другіх уздывацца — сам работый.* Арцёмаўка Міласл.

УЗДЫХНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Уздыхнуць. *Што мне яго спыгада, калі б ён памог, ато што ён уздыхнець са мною, дык мне ат етыга луччы ні станіць.* Арцёмаўка Міласл.

УЗЖАЛІЦЦА, *дзеясл.* Зжаліцца, злітавацца. *Дзед з бабый узжаліліась над дзіцёнкым і ўзялі падкідуша к сабе.* Палуж Краснап.

УЗЖЫРТЫВАЦЦА, *дзеясл.* Разжартавацца. *Чаго ета ўзжыртуваўся? Глядзі, штоб не плакаў.* Канічы Касцюк.

УЗІМКУ, *прысл.* Узімку, зімнім часам. *Што ета ты зачыніўся ў хаці, як узімку, расчыні вокны хоць, ато душна.* Ляхі Чэрык. *Абмазылі сьцены глінаю, каб узімку было цяплей.* Сохана Мсцісл.

УЗІМУ, *прысл.* Узімку. *Мой шахцёр узіму прыедзіць удвору.* Бяседавічы Хоцім. *З тыя нядзелі пычану абкутываць дрэвы, ато яны зьгінуць узіму.* Каробчына Мсцісл.

УЗІРАЦЬ, *дзеясл.* Глядзець. *Ты на другіх не ўзірай, а зы сабою глядзі.* Дубеец Касцюк.

УЗЛЕЗЬЦЬ, *дзеясл.* Залезці. *Нада ж ета ўзлезьць ны самый вільчык крышы, а каб адтуль упаў, то што было б?* Казельская Буда Бялынкав.

УЗЛЫВАЦЦА, *дзеясл.* Зазлаваць. *Я так ны яго ўзлываўся, што чуць морды яму ні набіў.* Бяседавічы Хоцім.

УЗЛЫМАЦЬ, *дзеясл.* Узламаць, паламаць. *Так ні ўлезіш, прыдзіцца дзьверы ўзлымаць.* Палуж Краснап.

УЗМІШАЦЬ, *дзеясл.* Узмяшаць, узараць другім разам пад жыта. *Мы ўчора ўзмішалі тую дзісяціну, заўтра будзем сеяць жыта.* Пірагова Мсцісл.

УЗНАСІЦЬ, *дзеясл.* 1. Уносіць, плаціць. *Скора нада й прыдналог узнасіць, а па колькі, дык яшчэ ні зьвесна.* Касперка Міласл. 2. Узносіць, выхваліць. *Ён свайго сына так узносіць, што луччы яго, разумней і ў сьвеці нет.* Дубеец Касцюк.

УЗНОВА, *прысл.* Зноў. *Ня кончылась адна выйна, узнова бяруць на другую.* Маластоўка Краснап.

УЗНОСІЦЬ, *дзеясл.* Узносіць, хваліць. *Ён узносіць сваё да нябёс, а чужое ганіць.* Таўстукі Стрэш.

УЗНОЎ, *прысл.* Зноў. *Узноў наш дзядзька пріехыў к нам.* Канічы Касцюк. *Якыў узноў пычаў блюзьніць, відаць, выпіў.* Добрае Мсцісл.

УЗНЫК, -у, *м.* З'яўленне, ускрасенне. *Штоб тваей душэ і ўзныку ні было.* Хвёдараўка Краснап.

УЗОРІНЫЙ, *прым.* Узараны. *Поля ўзорінія і зывалочыныя — можна трохі й атдыхнуць.* Цівецкая Краснап.

УЗРАЧНА, *прысл.* Прыгожа. *Як узрачна сёньні на возіры.* Ушакі Чэрык.

УЗРАЧНЫЙ, *прым.* Станавіты, асаністы. *Узрачны быў яе бацька — таўсты, віcокі, бырыда на ўсі грудзі.* Ушакі Чэрык.

УЗРОК, -а і -у, *м.* Позірк, погляд. *Узрок у яе суровый: гляніць — наскрозь праніжыць.* Крывы Лес Росл.

УЗРОСТ, -у, *м.* Узрост. *Па ўзросту Янку яшчэ ні прынялі ў школу.* Добрае Мсцісл. *Нейкыя жанчына прыходзіла, так сярэдняго ўзросту.* Новы Дзедзін Міласл.

УЗРУ́ПІЦЬ, *дзеясл.* Занепакоіць. *Бабі ўзрупіла, як яе сын там, у чужых людзей жывець.* Палуж Краснап.

УЗРЫГАЦЬ, *дзеясл.* Плакаць. *Я ж ёй скызаў толькі, што так дзелыць нільзя, а іна як пычыла ўзрыгаць, дык і ратунку німа.* Тур'я Чэрык.

УЗУПЕРЫЦЬ, *дзеясл.* Падсунуць, даць абманным спосабам. *Узуперыў мне дрэнныга кыня, цяпер што хочыш зь ім рабі.* Хвёдараўка Краснап.

УЗЫБРАЦЦА, *дзеясл.* Залезці. *На еткыю шыбініцу ўзыбраўсь.* Кокатава Мсцісл. *Узыбраўся ны самую шчэбіць ёлкі.* Хвёдараўка Краснап.

УЗЫЙЦІ, *дзеясл.* 1. Узыйсці. *Зьвізда вячэрнія ўзыйшла.* Крычаваткі Распян. *Месік на небі ўзыйшоў.* Бардзіч Краснап. *Жыта ўжо ўзыйшло, руніць.* Лешчынка Мсцісл. 2. Узнікнуць, прыйсці. *Узыйшла мне на вум адна думка.* Слаўнае Мсцісл.

УЗЫРАНЫЙ, *прым.* Узараны. *Ральлё ўжо ўзырана, можна пачынаць сеіць.* Янаўка Мсцісл.

УЗЫРАЦЬ, *дзеясл.* Узараць. *Нада ўзыраць аблогу.* Хвёдараўка Краснап. *Ладны кусок узыраў за дзень.* Крычаваткі Распян.

УЗЫРВАЦЦА, *дзеясл.* Разарвацца, выбухнуць. *Ты толькі кінь бонбу, іна павінна січас узырвацца.* Слаўнае Мсцісл.

УЗЫСКІ, -каў *мн. л.* Спагнанне. *Зы пытраву айсу я пыдаў на Йвана на ўзыскі ў суд.* Добрае Мсцісл.

УЗЫСКЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Сысківаць, спаганяць. *Скора ны дзяреўню пріедзіць выжымайла доўг узыскывыць.* Слаўнае Мсцісл.

УЗЬБІЦЬ, *дзеясл.* Набіць, пагнаць. *Трэба ўзьбіць арэхву ны каток.* Людагошч Мсцісл.

УЗЬВЕДКІ, -дак, *мн. л.* Выведы, разведка. *Прыйшоў ды нас на ўзьведкі: ці няможна ў вас чаго пажывіцца.* Ушакі Чэрык.

УЗЬВІСЯЛІЦЬ, *дзеясл.* Абрадаваць. *Узьвісяліў я яго етым.* Маластоўка Краснап.

УЗЬВЯРНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Вярнуцца. *Ці ўзьвярніцца калі-небудзь твой сын з Амерыкі? Пісаў, што хоча ўзьвярнуцца.* Палуж Краснап.

УЗЬДЗЕЦЬ, *дзеясл.* Надзець, апрануць. *Узьдзеў блахон і пашоў.* Брылёўка Краснап. *Мне бацька купіў новыя чыбаты, ды малыя — я іх чуць на ногі ўзьдзеў.* Горня Хоцім.

УЗЬЕХАЦЬ, *дзеясл.* Уз'ехаць, заехаць. *Атчыні вароты ды ўзьедзь на двор.* Слаўнае Мсцісл.

УЗЬЛЕЗЬЦЬ, *дзеясл.* Узлезці. *Як на ету гару ўзьлезьць? Ета-ж такыя выш!* Ясенка Краснап. *Пыдстаў лесьвіцу, бізь яе ня ўзьлезіш.* Хвёдараўка Краснап.

УЗЬЛІЦЬ, *дзеясл.* Узліць, лінуць, па-

ліць. *Ну вось, узьліеш яшчэ вар на рукі— пыаблазяць тады.* Ушакі Чэрык.

УЗЬЛЮБІЦЬ, *дзеясл.* Палюбіць. *Ні магу я його ўзьлюбіць — працўйны ён мне.* Дзянісавічы Навазыбк.

УЗЬМІТУСІЦЦА, *дзеясл.* Замітусіцца. *Пріехыў к яму дзядзька, дык ён узьмітусіўсь — ні знаіць, дзе й пысадзіць, січас пабег у кыпіряцій зы гарелкый.* Краснаполле. *Як пачулі яны, што госьці едуць, дык узьмітусіліся, што крый бог: хто ў хаці прыбіраіць, хто сам прыбіраіцца, а хто бегыіць пы хаці німаведыма чаго.* Арцёмаўка Міласл.

УЗЬНЯЦЦА, *дзеясл.* 1. Узняцца, вырасці. *Глядзі, якей густэй ельнічык узьняўся.* Камароўка Крыч. *Хлібанула я гырячыга чаю, дык у році ўзьнялося ўсё: язык, дзясны й пыднябеньня.* Слаўнае Мсцісл. *На рэчцы валы ўзьняліся, ніяк ні пірыплывеш на тэй бок.* Парадзіна Мсцісл. 2. Узнікнуць, пачацца. *У іх тыкая сварка ўзьнілась, што бязь дзелу ні абойдзісься.* Палуж Краснап.

УЗЬНЯЦЬ, *дзеясл.* 1. Падняць. *У етым мяшку пудоў сем будзіць, я чуць узьняў яго ны засік.* Бяседавічы Хоцім. 2. Падняць, распачаць. *Як узьнялі лаянку, клятву — хуць ты вушы зыткай.* Пірагова Мсцісл.

УЗЯЦЦА, *дзеясл.* 1. Узяцца, ухапіцца рукамі. *Во сыбака ў іх! Ні дасьць і зы клямку ўзяцца.* Сідараўка Мсцісл. *Я толькі ўзяўся за ручку, а іна й адырвалысь.* Шумячы. 2. Прыняцца, пачаць. *Кравец шшыў жупан і ўзяўсь краіць шубку.* Арцёмаўка Міласл. *Калі прысьпічыла, дык відзіш, як пільна ўзяўся зы работу.* Гібалы Касцюк. *Надаў мне чорт узяцца за ета дзела.* Сохана Мсцісл. 3. З'явіцца. *Гэй ты! Адкуля ты ўзяўся?* Хвёдараўка Краснап.

УЗЯЦЬ, *дзеясл.* 1. Узяць. *Узяў ён венік ды давай пліскаць на ўсіх вадою.* Ушакі Чэрык. *Сілаю прымусіш аддаць, а ўзяць сілаю ня прымусіш.* Сохана Мсцісл. 2. Купіць. *Трэба яшчэ заскочыць у лаўку узяць алею.* Канічы Касцюк. 3. Схапіць. *Мяне ўзіла задышка, ні магу аддыхыцца.* Хвёдараўка Краснап. 4. Прыняць. *Бязьдзетныя мы, дык узялі сабе сіротку за сына.* Сохана Мсцісл.

УЙЦІЦЬ, *дзеясл.* Пайсці. *Ён стаў сьпішацца, штоб ды дня уйціць.* Арцёмаўка Міласл. *Мы зайдзем на вічарынку, калі толькі там трохі нілыдходзяча — уйдзём.* Пірагова Мсцісл.

УКАВЫРА, -ы, *м.* Чалавек, якога можна ўгаварыць. *Ён яшчэ ўкавыра, а во яго брат, дык не, таго ні ўгаворыш.* Хвёдараўка Краснап.

УКАЗ, -у, *м.* Указанне. *Я зьдзелыў пы твайму ўказу, як ты кызаў.* Шарэйкі Касцюк.

УКАКОШЫЦЬ, *дзеясл.* Укакошыць, забіць. *А Йвана-тыкі нехта ўкакошыў, дос ён над людзьмі пазьдзікаўся.* Кокатава Мсцісл.

УКАЛОЦЬ, *дзеясл.* Укалоць. *Ай, укалола сабе паліц іголкыю.* Канахоўка Клім. *Наша карова чуць ні ўкалола малога.* Канічы Касцюк.

УКАПІЦЦА, *дзеясл.* Укляпацца, улезці, прыняць удзел. *І нада было яму ўкапіцца ў ета дзела, а цяперь во цігаюць, як кыта за хвост.* Бяседавічы Хоцім.

УКАРОН, *прысл.* Да кораня, ушчэнт. *Укарон зьбілі коні жыта.* Хвёдараўка Краснап.

УКАРМІЦЬ, *дзеясл.* Укарміць. *Як удасца пырыся пыганыя, дык яго ўкарміць трудна.* Касперка Міласл.

УКАРМЛІВЫЦЦА, *дзеясл.* Укормлівацца. *У нашыга Сьціпана сьвіньні харошыя сталі: укармлівыюцца ны сала скора.* Гібалы Касцюк.

УКАРМЛІВЫЦЬ, *дзеясл.* Укормліваць, карміць на сала. *Кірыл укармлівыіць сьвіней пудоў пы дваццыць.* Глупікі Крыч.

УКАЮЧЫЦЬ, *дзеясл.* Забіць, укакошыць. *Яны яго ўкаючылі.* Хвёдараўка Краснап.

УКІНУЦЬ, *дзеясл.* Укінуць. *Узяў хлапцову шапку ды ў рэчку ўкінуў.* Ханеўка Крыч.

УКІСНУЦЬ, *дзеясл.* Укіснуць, зрабіцца кіслым. *Капуста яшчэ ўкіснуць не пасьпела, а яны ўжо ядуць яе сырую.* Машавая Бялынкав.

УКЛАДЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Укладваць. *Укладывай бёрда ў набелкі.* Цівецкая Краснап.

УКЛАНЯЦЦА, *дзеясл.* Кланяцца, прасіць. *Дос табе ўкланяцца гэстаму гаду: усі роўна ні дась сінажаці.* Ушакі Чэрык.

УКЛАСЬЦЬ, *дзеясл.* Укласці, палажыць. *Усё ўжо гатова, толькі хлеба ў кайстру ўкласьць, дык й йсьці можна.* Касцюшкавічы Крыч. *Ны дарогу я ўкладу хлеб у кашэль.* Сідараўка Краснап. *Як уклаў дрожджы ў сымагонку, дык і пычыла іна шліхытаць.* Слаўнае Мсцісл.

УКЛЕІЦЦА, *дзеясл.* Запэцкацца. *Уклеіўся ў гразь, што й адмыцца трудна.* Гусарка Клім.

УКЛІПАЦЦА, *дзеясл.* Папасці ў непрыемную гісторыю, памыліцца. *Па абліччу, здаецца, й знаёмый, але баюсь, каб ні ўкліпацца.* Куркаўшчына Мсцісл.

УКЛЯПАЦЦА, *дзеясл.* Укляпацца, папасці ў непрыемную гісторыю, памыліцца. *Зь етым дзелым ён здорва ўкляпыўся.* Хвёдараўка Краснап.

УКОР, -у, *м.* Дакор, папіканне. *Дужа больна матцы чуць ат дзяцей укоры за іх хлеб-соль.* Сохана Мсцісл.

УКОЦЫЦЬ, *дзеясл.* Забіць. *Прыстыва-ткі ўкоцылі — ня выдрыўся.* Маластоўка Краснап.

УКРАДНІ, *прысл.* Украдкам, тайком. *Зьдзелый ета ўкрадні, штоб ніхто ні знаў.* Палуж Краснап.

УКРАДНЯ, *прысл.* Употайкі. *Украдня пайшоў туды.* Палуж Краснап.

УКРАЙ, -я, *м.* Край, краіна. *Здэцца, кінуў бы гэсты ўкрай ды пышоў бы шукаць лепшыга!* Ушакі Чэрык.

УКРАСІЦЬ, *дзеясл.* Упрыгожыць, убраць. *Нарьві там дзірязы ў лесі, нада к сьвяту ўкрасіць хату.* Слаўнае Мсцісл.

УКРАСЦА, *дзеясл.* Падкрасціся, ціха непрыкметна падысці. *Як-небудзь украдзь-*

ся к хаці ды зірні ў вакно, пылядзі, хто гам ёсьць. Палуж Краснап.

УКРА́СЬЦЬ, дзеясл. Украсці, узяць чужое без спросу. *Ні пакідай калёсы ны дварэ, ато каткі могуць украсьць.* Ушакі Чэрык. *Ня бойсь, ні ўкрадуць — хто ны такоя дабро пыгаліцца.* Парадзіна Мсцісл. *У мяне нехта нож украў.* Хоцімск.

УКРАШВАНЬНЕ, -я, н. Упрыгожванне. *Усё ваша ўкрашваньне ні гадзіцца — дуніць веціра, і ўсё пызьлітая.* Хвёдараўка Краснап.

УКРАШЫВЫЦЬ, дзеясл. Упрыгожваць. *Сяньні прідзем із школы позна — будзім украшывыць к празніку.* Мелехава Смал.

УКРЕ́ПІЦЬ, дзеясл. Умацаваць. *Етый патрет вісіць ны адным гвазду, яго нада ўкрепіць, ато ўпадзець, ноды, каму на гылаву.* Мсціслаў.

УКРО́П, -у, м. 1. бат. Укроп. *У гуркі нада пыкласьці ўкропу.* Хвёдараўка Краснап. *Укроп ны градах парос, як лес, высокій.* Тур'я Чэрык. 2. Кіпень, вар. *Ці ёсьць у цябе ўкроп у печы? Нада мякіну зыпарыць.* Парфенава Мсцісл. *Налі ў вядро ўкропу посуд памыць.* Крычаў. *Улі ў міску ўкропу і памый ложкі.* Гусарка Клім. *Памый гылаву ўкропым.* Касцюковічы.

УКРУ́Г, прысл. Наўкола, укруг. *Яны селі ўкруг стыла. Укруг нас лес.* Палуж Краснап. *Я ўкруг двыра пыставіў пыркан з досак.* Парадзіна Мсцісл.

УКРУ̂МІЦЬ, дзеясл. Адрэзаць няроўнасць, выраўняць. *Трэба ўкруміць забел ў бярне. Няроўна спілілі, трэба вайстрак укруміць.* Хвёдараўка Краснап.

УКРУЦІЦЬ, дзеясл. Укруціць, падкруціць. *Пятрок укруціў у лямпу новы кнот.* Гібалы Касцюк. *Укруці трохі лямпу, ато курыць.* Пархвенава Мсцісл.

УКРУ́ЧВАЦЬ, дзеясл. Укручваць. *Нашто ты ўкручваеш агонь, ніхай так гарыць!* Слабада Крыч.

УКРЫВА́ЦЬ, дзеясл. Укрываць, добра накрываць. *Ні ўкрывай мяне, мне й так цяпло.* Ушакі Чэрык.

УКРЫША́ЦЬ, дзеясл. Упрыгожваць. *Гэты сукаты дуб укрышаў усю нізіну; біз яго січас усё поля голыя.* Слаўнае Мсцісл.

УКРЯПІЦЬ, дзеясл. Умацаваць. *Нада ладна ўкряпіць падпоркі ў хаці, каб ні ‥валіліся.* Слаўнае Мсцісл.

УКУ́С, -а, м. Укус. *Пілініха ведыіць зыгавор ат зьмяіныга ўкусу, схадзі к ёй, ніхай зыгаворя.* Залесавічы Крыч.

УКУСІ́ЦЬ, дзеясл. Укусіць. *Сыбака кінуўся ны мяне і хацеў укусіць — добра, што ў мяне кій быў, дык адбыраніўся.* Арцёмаўка Мілаcл. *Маріц укусіць зы паліц.* Гібалы Касцюк. *Нашу карову ўкусіла вужака.* Пухнава Расням.

УКУ́СНА, прысл. Смачна. *Ты любіш укусна есьць, а работыць ні любіш.* Машавая Бялынкав.

УКУ́СНЫЙ, прым. Смачны. *Сёньні вельмі ўкусныя варва.* Забалоцце Расням.

УКУ́ТЫЦЬ, дзеясл. Цёпла ўкрыць, адзець. *Укутый яго лепш, ато ён замерзьніць.* Кокатава Мсцісл.

УКУ́ХТВАЦЬ, дзеясл. Цёпла ўкрываць, закручваць, адзяваць. *Што ты расхрыстаўсь? Укухтвай шыю, ато прастудзісься!* Пірагова Мсцісл.

УКУ́ЧКІ, прысл. Разам, гуртам, калектывам. *Работыюць укучкі, укучкі й спажываюць.* Палуж Краснап.

УКУ́ЧЫ, прысл. Разам. *Дывайця ўсі ўкучы сыпяем, і разым штоб пачынаць.* Арцёмаўка Міласл. *Пы лясу дзеўкі хадзілі ўкучы, каб ні заблудзіцца.* Маластоўка Краснап.

УКЫЗА́НІЯ, -я, н. Паказ, тлумачэнне. *Я ўвесь час ішоў пы яго ўкызанію, як ён мне растулмачыў.* Шарэйкі Касцюк.

УКЫЗАЦЬ, дзеясл. Паказаць. *Я ахотніку ўкызаў дарогу ў лясу, а ён мне за ета даў порыху.* Бяседавічы Хоцім.

УКЫПА́ЦЬ, дзеясл. Укапаць. *Нада ўкыпаць дубовыя шулы, каб даўжэй выстыілі вароты.* Слаўнае Мсцісл. *Укыпалі штындары, будзім дзелаць сырайчык.* Арцёмаўка Міласл.

УКЫРЯ́НЬНЯ, -я, н. Укоры, дакоры. *От, ні чула я його ўкыряньня, мне што ён гаворіць, што сыбака брешыць.* Брылёўка Краснап.

УКЫРЯ́ЦЬ, дзеясл. Укараць, дакараць. *Укыряў мяне тым, што 'днойчы прівёз зь лесу дроў, а я нічым ні 'тблыгыдыріла.* Залачэўка Краснап.

УЛАВІ́ЦЬ, дзеясл. Злавіць. *Я ўлавіў палоніка.* Касцюковічы. *Што, улавіў хука?* Хвёдараўка Краснап.

УЛА́ДЖЫНЫЙ, прым. Улагоджаны, уладкаваны. *Ета дзела будзіць уладжыныя, сумліваціа німа чаго.* Карма-Пайкі Краснап.

УЛАДЗЕ́ЛЬНІК, -а, м. Уладальнік. *Уладзельнік етыга хутыря памёр, а нашчаткыў у яго ні было, вот і астаўсь хутырь опчыству.* Мануйлы Краснап.

УЛАДЗЕ́ЦЬ, дзеясл. Уладаць, валодаць. *Ня ўмеіш тыпаром уладзець, дык і дрэва ня псуй.* Дубеец Касцюк.

УЛАДЗІ́ЦЬ, дзеясл. Уладзіць. *Яму і сам чорт ні ўладзіць — усё ні пы яго.* Слаўнае Мсцісл. *Зь етый сварэкый ні ўладзіш.* Хвёдараўка Краснап.

УЛАЖЫВЫЦЬ, дзеясл. 1. Уладжваць, ладзіць. *Надзелыў дзялоў, цяпер езьдзіць пы нычальству ўлажывыць — німаведыма, ці ўладзіць.* Касцюшкавічы. 2. Укладваць, класці. *Трэба дзяцей улажывыць спаць, ато ўжо позна.* Тур'я Краснап.

УЛАЗІНЫ, -ін, мн. л. Улазіны, уваходзіны. *Ну, у новую хату ўвайшлі — можна і ўлазіны спрыўляць.* Парадзіна Мсцісл. *Яны ў новую хату пірібіраюцца, дык улазіны спрыўляюць і нас звалі.* Арцёмаўка Міласл.

УЛАЗІ́ЦЬ, дзеясл. Улазіць, пралазіць. *Я ўжо і так і етык міркуваў, прадзіваў, ды нічога ні зьдзелыіш, ніяк ні ўлазіць.* Вярбоўка Расням.

УЛАСЬЦЬ, -і, ж. 1. Улада. *Цяпер у нас Савецкыя ўласьць.* Слаўнае Мсцісл. *Для Савецкай уласьці нічога ні жаль, пытаму што ета наша сілянская ўласьць.* Арцёмаўка Міласл. 2. Урад. *Дзікрет уласьці*

*пра зямлю чыталі ў сельсавеці.* Лютня Краснап.

УЛА́ШЧЫНЫП, *прым.* Улашчаны, улагоджаны, больш ласкавы. *Раней быў злый, а цяпер ужо ўлашчыный стаў.* Слаўнае Мсцісл.

УЛАШЧЫЦЦА, *дзеясл.* Стаць больш ласкавым. *Матка пасердзіцца дый улашчыцца.* Гарбавічы Касцюк. *Ты яму пыгразі, дык ён улашчыцца і станіць з табою мякчэй.* Арцёмаўка Міласл.

УЛА́ШЧЫЦЬ, *дзеясл.* Улагодзіць, задобрыць. *Улашчы ты свайго бацьку, ато зь ім і гывaріць страшна.* Хвёдараўка Краснап.

УЛЕ́ЖНА, *прысл.* Добра, спакойна, без турбот. *Тут нам хоць улежна атдыхаць, ды ня ўежна жыць.* Сохана Мсцісл.

УЛЕ́ЗЬЦЬ, *дзеясл.* 1. Улезці. *Зывалі дзьверы ны зывал, ато ні пачуіш, як хто ўлезіць.* Касцюшкавічы Крыч. *Зачыні ны закрутку дзьверы, каб сьвіньні ня ўлезьлі.* Слаўнае Мсцісл. *Улез у нейкую калдобіну, што й ня вылізьць.* Новы Свет Краснап. 2. Засесці, убіцца. *Улезла мальцу дурыта ў гылаву, і ня хочыць нічога дзелыць.* Лешчынка Мсцісл.

УЛЕ́ЗЬЦЬ У ЧЫНЫ́. Стаць значным. *Куды там, ікая ў яго пыважнысьць стала — у чыны ўлез.* Добрае Мсцісл.

УЛЕ́ПШЫНЫП, *прым.* Палепшаны, удасканалены. *Січас ён пользыіцца ўлепшыным спосыбым — раньшы прасіў, а січас проста крадзець.* Трубільня Краснап.

УЛЕ́ТКУ, *прысл.* Летам. *Улетку, у жніво, дзень дужа вялікій.* Арцёмаўка Міласл. *Мы ўлетку сьпім ны пыгрыбне, там суха і ні жарка.* Канахоўка Клім.

УЛІГА́НЬНЯ, -я, *н.* Асяданне. *У стогу ўліганьня ні роўныя: адна стырына ніжэй за другую.* Тур'я Краснап.

УЛІ́ЗАЦЬ, *дзеясл.* Улазіць, змяшчацца. *У маю сяўню ўлізая больш пуда.* Палуж Краснап.

УЛІКНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Спалохацца. *Ай, як я сёньня ўлікнулась, думала воўк, а ета сыбака.* Янаўка Міласл.

УЛІР'Я́Н, -у, *м. бат.* Валяр'яна. *Ля рэчкі расьцець многа ўлір'яну.* Хвёдараўка Краснап.

УЛІР'Я́НА, -ы, *ж. бат.* Валяр'яна. *Улір'яны-корішю ныкыпаў.* Тур'я Чэрык.

УЛІЦКЫВАЦЬ, *дзеясл.* Пазнаць у твар чалавека. *Баба злодзія ўліцкывала ны бызарі.* Самацевічы Касцюк. *На судзе я яго ўліцкываў; той самы.* Палуж Краснап.

УЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Прыліпнуць, шчыльна прыстаць. *Добра пашыта ў цябе паліто, проста ўлілось яно ны табе!* Ушакі Чэрык.

УЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Уліць, наліць. *Усе сваe латкі пабіла, і січас не ўва шта баршчу ці супу ўліць.* Каробчына Мсцісл. *Уліць табе троху пастыялкі?* Макуліна Расняп. *Улі, галубка, варыва троху.* Лютня Краснап.

УЛО́МЫК, -мка, *м.* Уломак, нядужы чалавек. *Падсоб мне дынясьці да дому дзежку. Ня ўломык, дынясеш і адзін.* Краснаручча Расняп.

УЛО́ННЯ, -я, *н.* Улонне, калені. *Вазьмі дзіцяцю на ўлоньня.* Галоўчыцы Калінішчына.

УЛЫДА́НЬНЯ, -я, *н.* Уладанне. *Яго ўлыданьня сабою ніколі ня выдасьць.* Слаўнае Мсцісл. *Во ўзяў ён ныд намі ўлыданьня, што хочыць, тое й робіць.* Зарубец Крыч.

УЛЫДА́РЬ, -я, *м.* Уладар. *Улыдарь етых лясоў быў грах Патоцкій.* Дзяніскавічы Навазыбк.

УЛЫДА́ЦЬ, *дзеясл.* Валодаць. *Пан улыдаў большы як пылавінай зямлі ў етым раёні.* Цівецкая Краснап.

УЛЫЦНА́ЦЬ, *дзеясл.* Дагаджаць. *Нявестка ніяк ня можа ўлыцнаць сьвякрові: то тое ні так, то другоя ні ладна — усё біда.* Малюшын Краснап.

УЛЯКЛІ́ВА, *прысл.* Палахліва, баязліва. *Што ты глядзіш ны мяне ўлякліва — усі роўна, як я зьбіраюсь цібе есьці.* Ушакі Чэрык.

УЛЯКНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Спужацца, спалохацца. *Убачыўшы шалёную сыбаку, я дужа ўлякнуўся.* Галоўчыцы Калінішчына. *Кузьма ўлякнуўся, што аж зыхвареў.* Канічы Касцюк.

УЛЯПЕ́ТЫВЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Уцякаць. *Уляпетывый ты адцюль, ато пыпадзець табе.* Сапрынавічы Мсцісл. 2. Прагна есці. *Во прыгылыдаўсь, пыставілі кашу, дык ён як пычаў уляпетывыць, аж зы вушамі трашчыць.* Янаўка Мсцісл.

УЛЯЦЕ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Уляцець. *Чаго ты, ёлуп, рот разінуў, глядзі — варона ўляціць.* Сохана Мсцісл. 2. Упасці. *Тут глядзі ато жыва ў яму ўляціш.* Канічы Касцюк.

УМАЛЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Змяншэнне. *У етым гаду ў нас бульбы ўмаленьня, так што ня тольки на продыж, дык і сабе ні хваціць.* Сохана Мсцісл.

УМА́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Зменшыць. *Баба гады сабе ўмаліла.* Палуж Краснап. *Мыладзіца здароўя сабе ўмаліла.* Высокі Бор Краснап. *Налогу троху нам умалілі.* Тур'я Чэрык.

УМА́ЛКУ, *прысл.* Змалку, у малыя гады. *Сын мой умалку дужа хварэў.* Палуж Краснап.

УМАЛО́Т, -у, *м.* Умалот, колькасць зерня з снапа жыта, аўса. *Умалот сёліта дужа плахей: кыпа даець усяго тры пуды.* Залесавічы Крыч.

УМАЛО́ТНЫП, *прым.* Умалотны, багаты на зерне. *Расьці, расьці жыцІйка — кыласістыя, кыряністыя і ўмалотныя.* Серчыцы Краснап. *Авёс у нас дужа ўмалотны — пяць пудоў з капы даець.* Забелышана Хоцім.

УМАРЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Умарыць. *Як у яго жыта жалі, дык ён нас з голыду ўмарыў — такей ужу скупірдзя.* Юшкі Мсцісл. *Такей штукар етый Мішка, што са сьмеху можыць умарыць.* Балакеры Мсцісл.

УМАЧЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Намачыцца. *Ты хочаш, каб конь вады напіўся, і капыт ні ўмачыўся.* Меншая Багацькаўка Міласл.

УМАЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Памачыць. *Пакуль плацьце памыла, дык падол умачыла.* Гарадок Расняп.

УМЕ́СТА, *прысл.* Разам, у адно места.

*Лянь-ка, што яны робяць: галовы пыклалі ўместа, а ныгамі пірікідаюць адзін аднаго.* Горкі Краснап.

УМЕСЬЦІ, *прысл.* Разам. *Нада пыгадзіць, можа яшчэ бацька пад'едзіць, тады ўмесьці будзім вячэріць.* Арцёмаўка Міласл. *Мы абрадзіліся нычуваць умесьці.* Палуж Краснап.

УМЕЦЬ, *дзеясл.* Умець. *А быдай ты запрыпаў зь етым хлапцом, нада ж умець так падстроіць!* Пархвенава Мсцісл. *Ніякыга ладу ў іх німа: скачуць, як хто ўмея.* Бардзіч Краснап. *Цыганкі рыботыць ня ўмеюць, дык ходзюць пы сялу ды кылантыруць.* Машавая Бялынкав.

УМІРАЦЬ, *дзеясл.* Уміраць. *Стары ўжо я, мне ўміраць пыра, ды сьмерць недзе ходзіць, а ды мяне ні дайдзець.* Крывы Лес Шумяц.

УМІРУШЧЫЙ, *прым.* Той, хто ўмірае. *На ложку ляжыць умірушчый.* Шумячы.

УМОВА, -ы, *ж.* Умова. *Штоб так гываріць, нада добра ведаць умовы гаспыдаркі.* Канічы Клім.

УМОВІЦЦА, *дзеясл.* Умовіцца. *Глядзі ж, штоб ты так зрабіў, як мы ўмовілісь.* Сохана Мсцісл.

УМЫВАЦЦА, *дзеясл.* Умывацца. *Пыдаджджы ўмывацца, я зьбегыю вады сьвежый прынясу, халодныю і ўмыесься.* Беразякі Краснап.

УМЫВАЦЬ, *дзеясл.* Умываць, мыць. *Умывайця, дзядзькі, рукі ды садзіцеся за стол — будзем палуднываць.* Шамава Мсцісл.

УМЫТАЦЬ, *дзеясл.* Зацягнуць у нядобрае, заблытаць у якой-небудзь справе. *Пыдаджджы, я цябе ўмытаю!* Тур'я Краснап.

УМЫУЛЯЦЦА, *дзеясл.* Умаўляцца. *Мы зь ім умыўлялісь сяньні ў горыд ісьці, але, мабыць, ня прыдзіцца.* Куравічы Мсцісл.

УМЭТЛУХ, *прысл.* Ушматкі. *Твыя кохта рызьляцелась ужо ўмэтлух і надзіваць нечыга.* Куркаўшчына Мсцісл.

УМЯСЬЦЕХ, *прысл.* Супольна, разам. *Мы ўмясьцёх с Аўсеім абдзелылі адно дзела.* Б. Хутары Краснап.

УНАДЗІЦЦА, *дзеясл.* Унадзіцца. *Як унадзіліся сьвіньні ў гарод, ніяк ні зыгародзісься ад іх.* Парадзіна Мсцісл. *Куры ўнадзілісь у гарод, дык цяпер адбою німа.* Гібалы Касцюк. *Як унадзілісь віраб'і ў проса, хоць махылым мыхай.* Палуж Краснап.

УНАДНА, *прысл.* Унадна. *Зыдай ёй хырашэнька, штоб ні було ўнадна — штоб ні хадзіла большы ў шкоду.* Арцёмаўка Міласл.

УНІЗ, *прысл.* Уніз. *Пірякувыркнуўсь уніз гылавою.* Хвёдараўка Краснап. *Злазь уніз па лесьвіцы.* Бяседавічы Хоцім.

УНІЗУ, *прысл.* Унізе. *Ета ат яго пісьмо, во й яго потпіс унізу.* Арцёмаўка Міласл.

УНІМАНІЯ, -я, *н.* Увага. *Дзеці ні слухаюць, хоць ты кажы ім што, хоць не кажы — ніякыга ўніманія.* Арцёмаўка Міласл.

УНОЎ, *прысл.* Зноў. *Уноў нейкі быдзяга ідзець.* Добрае Мсцісл.

УНОЧКІ, *прысл.* Уночы. *Уночкі пайшоў у лес і ні быяўся.* Хвёдараўка Краснап.

УНОЧЧЫ, *прысл.* Уночы, ноччу. *Ішоў уноччы з Асмолавіч, як ускочыў у нейкую каўдобіну, чуць выбраўся. Уноччы ваўкі жырябёнка зьелі.* Пірагова Мсцісл.

УНУК, -а, *м.* Унук. *У мяне ўжо ўнукі ёсьць, я ўжо дзед.* Паўлавічы Клім. *Пысадзіў садок, ніхай унукам будзіць, усё спымянуць добрым словам дзеда.* Пацкава Мсцісл.

УНУЧКА, -і, *ж.* Унучка. *Мыя ўнучка вельмі добрыя, даглідаіць мяне старога.* Міцькаўшчына Мсцісл.

УНУЧЫК, -чка, *м.* Памянш. ад унук. *Пыдай мне, унучык, цапок, я выйду на вуліцу.* Юзэфаўка Хоцім.

УНУЧЫЧАК, -чка, *м.* Памянш. ад унучак. *А мой ты ўнучычак, а мой ты малы, а ты ж дзеду кветычку прынёс, во мыладзец!* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

УНУШАЦЬ, *дзеясл.* Унушаць. *Гэтый чылавек такій відный, што кожныму ўнушаіць даверія.* Пацкава Мсцісл.

УНЫВАЦЬ, *дзеясл.* Падаць духам. *Ня ўнывайця, хлопцы, заўтрі здадзім залікі.* Мсціслаў. *Ня ўнывай, хлапец, будзя й табе лепш.* Галынец Краснап.

УНЫРАВІЦЬ, *дзеясл.* Унаравіць, дагадзіць. *Яму аніяк ні ўныравіш: што ні зрабі — усё ні пы яго.* Горы Краснап. *Ныраві яму, як ніцый скулкі — усё роўна ні ўныравіш.* Дарагая Крыч.

УНЯСЬЦІ, унесьць, *дзеясл.* Унесці. *Унясі з погрыба гырлач ды й налі сабе пыстыялкі.* Варанёва Крыч.

УНЯЦЦА, *дзеясл.* Сціхнуць, перастаць. *Гылыва мыя ўнілася.* Бялынкавічы.

УПАДЛІВЫЙ, *прым.* Дасціпны, шкодлівы. *Во, упадліва ета куріца: усюдых ужо пабувала, лядзі што на стол пыляціць.* Арцёмаўка Міласл.

УПАДЫ, -ыў, *мн. л.* Клопаты. *Ні турбуйцесь, кумычка, я пріішла ні длі пычастункыў, ета саўсім лішнія ўпады.* Восаў Краснап.

УПАКОТ, *прысл.* Упокат. *Хатка маленькыя, нейдзе размінуцца, ляжаць яны там упакот.* Пірагова Мсцісл.

УПАРТЫЙ, *прым.* Упарты. *Ну й упартый жы ты чылавек — ні за шта ні перыступіш!* Дубеец Касцюк. *Упарты хлапец, як казёл.* Сохана Мсцісл.

УПАСЬЛЕДЫК, *прысл.* Урэшце, напаследак. *Упасьледык усяго ён са мною сыгласіўся.* Слаўнае Мсцісл.

УПАСЬЦІ, упасьвіць, *дзеясл.* Упасвіць. *Сьвіньні жахлівыя, ні ўпасеш.* Хвёдараўка Краснап.

УПАЦЕМКУ, *прысл.* Упоцемку. *Красір січас такей дырагей, што хоць ты вечырам упацёмку сядзі.* Лешчынка Мсцісл. *На што ты чытаеш упацёмку, вочы папорціш.* Хвёдараўка Краснап.

УПАЦЕЦЬ, *дзеясл.* Спацець. *Упацеў пакуль рыскалоў ету цяльпушку.* Новы Дзедзін Міласл.

УПЕРАД, *прысл.* Уперад. *Пыпаўсь, што ў нерыт: ні ўзад, ні ўперад!* Пірагова Мсцісл.

УПЕРІД, *прысл.* Уперад. *Уперід, чым*

*шыць, нада прымíркываць, ці хваціць мацеры.* Слаўнае Мсцісл.

УПЁРЦА, упёрьціся, *дзеясл.* Уперціся. *Ужу й госьці сыбралісь ны свадзьбе, а жаніх як упёрся: ня хочу ехыць к вянцу, пакуль пысагі ні прíбавюць, і канец!* Арцёмаўка Міласл. *Упёрся, як бык, і ні зь месца, што ты яму ні гуварі.* Малюшын Краснап.

УПЁРШ, *прысл.* Перш, раней. *Я ўперш схажу двору, а тады зайду к табе.* Лешчынка Мсцісл.

УПІКАЛЬШЧЫК, -а, *м.* Дакорлівы чалавек. *Падумаеш, упікальшчык знайшоўся! Ты ны сябе перве зьвярніся!* Пірагова Мсцісл.

УПІКА́НЬНЯ, -я, *н.* Дакора, папіканне. *Ён усім упікаіць, ды я ны яго ўпіканьня ні гляджу, дзелыю, як сыма хачу.* Аляксандраўка Краснап.

УПІЛЬНЫВАЦЬ, *дзеясл.* Упільнаваць, дапільнаваць. *Маіх дзяцей нільзя ніяк упільнываць, таго й глядзі, каб у рэчку ні ўтапіліся.* Лешчынка Мсцісл.

УПІНАЦЦА, *дзеясл.* Упінацца, працівіцца. *Пьяныга вядуць, а ён упінаецца, ня хочыць іці.* Сохана Мсцісл.

УПІРА, -ы *м.* і *ж.* Упіра, неслух. *Упіра дзіцёнык: ні за шта ня слухая маткі.* Маластоўка Краснап.

УПІ́РЛІВЫЙ, *прым.* Упірлівы, упірны. *Ах, якей ты ўпірлівый, ня хочыш слухаць, што табе кажуць бацькі.* Хвёдараўка Краснап. *Сыньнія натура ўпірлівыя.* Палуж Краснап.

УПІ́РНЫЙ, *прым.* Упірлівы, непаслухмяны. *Еткыга ўпірныга хлыпца нідзе ня знойдзіш: што захочыць, то й дзелыіць — нікога ня слухыіць.* Хвёдараўка Краснап.

УПІ́РЫ, -аў, *мн. л.* Упартасць, упірлівасць. *Дзіцёнык хварея ўпірымі. Трэба яго сікануць пруцікым з таго места, дзе конь пыкычаўся.* Маластоўка Краснап.

УПІРЫЧКА, *прысл.* Упоперак. *Скародзь упірычка.* Хвёдараўка Краснап.

УПІ́РЬ, -ю, *м.* Апора. *Німа ўпірю, штоб стрілянуць.* Клясін Краснап.

УПІ́РЬЛІВЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Упартасць, упірлівасць. *Што ні кажы — ні слухыіць, упірьлівысьць.* Бохаиы Росл.

УПІ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Упіцца, напіцца п'яным. *Нада ж ды таго, каб упіцца саўсім!* Старае Сяло Мсцісл. 2. Упіцца, уесціся ў цела. *Мне сяньні ўпіўсь клешч пряма пыд паху.* Горня Хоцім.

УПЛЁТ, -а, *м.* Істужка, што ўплятаюць у касу. *Дзяўчына купіла ў выласы ўплёт.* Лапаціна Мсцісл.

УПЛЕТКА, -і, *ж.* Уплёт, істужка, што ўплятаюць у касу. *Во йта прыгожыя ўплётка.* Хвёдараўка Краснап.

УПЛЕ́ЦІНЫЙ, *прым.* Уплецены. *У яе касе ўплеціна стужка.* Кокатава Мсцісл.

УПЛІ́ШЧЫЦЦА, *дзеясл.* Уплішчыцца, уціснуцца, улезці куды-небудзь з цяжкасцю. *У кыпіраціві сяньні столькі народу, што ўплішчыцца нільга. Вот уплішчыўся ж неяк!* Мсціслаў.

УПЛЫНЬ, *прысл.* Уплынь, уплаў. *Сылдаты на коніх сталі ўплынь перабірацца на другі бок.* Сохана Мсцісл. *Я кінуўся ўплынь ны сярэдзіну ракі і пыдхапіў яго за выласы.* Лешчынка Мсцісл.

УПЛЫ́Ў, -ву, *м.* Уплыў. *Пыд маім уплывам дык і хлапец як маліна стаў.* Добрае Мсцісл.

УПЛЫ́Ў, *прысл.* Уплынь, уплаў. *Сыбака ўплыў пусьціўся цірыз ряку.* Турэйск Краснап.

УПЛЯСЦІ [уплéсьць] *дзеясл.* Уплесці. *Упляці мне ў касу красную стужку.* Гарбавічы Касцюк. *Уплясьці нада стужку ў косу, прыгажэй будзець.* Касцюшкавічы Крыч.

УПО́КАТ, *прысл.* Упокат. *Зайшоў я да Максіма, а там краснармейцы начуюць: ны палу ўпокат ліжаць.* Барысавічы Клім.

УПО́ПЕРЫК, *прысл.* Упоперак. *Мыя пылыса ўпоперык тры сажні.* Палуж Краснап. *Добрыта твыя мне ўпопірік горла стала.* Зялёны Сарай Мсцісл.

УПО́РІЦА, -ы, *ж.* Прылада гнуць палазы. *Ета ўпоріца дужа каротка, полыз можна злымаць.* Ташна Клім.

УПО́РКА, -і, *ж.* 1. Падпорка. *Тут трэба ўпорку пыставіць, ато сьціна вываліцца.* Хвёдараўка Краснап. 2. Прылада гнуць палазы. *Упорка плоха зарезына.* Ташна Клім.

УПО́РЛІВЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Упорлівасць, упартасць. *Казьлінаю ўпорлівысьць ты маіш: што табе ні кажы — ты ўсё сваё.* Сохана Мсцісл.

УПО́РУ, *прысл.* Якраз, да меркі. *Ягору ўсё ўпору.* Бардзіч Краснап.

УПО́РЧЫВЫСЬЦЬ, -і, *ж* Упорлівасць. *Ува ўсякім дзеле ён з упорчывысьцю дабіваецца свайго.* Сохана Мсцісл.

УПО́ЦІМКУ, *прысл.* Упоцемку. *Упоцімку ні знайду сваe шапкі, чыркні сернічак ды пысьвяці.* Забычанне Хоцім. *Упоцімку нязгодна ткаць, нада зыпаліць лампу.* Слаўнае Мсцісл.

УПО́ЦІМКЫХ, *прысл.* Упоцемку. *Упоцімкых знайшоў, вобмыцкым.* Крывы Лес Росл.

УПРАВА, *прысл.* Направа. *Як дойдзеш да ростынькыў — пывярні ўправа.* Хвёдараўка Краснап.

УПРАВІ́ЛА, -а, *н.* Кола ў калаўроце. *Управіла ні гладка ходзіць.* Хвёдараўка Краснап.

УПРА́ВІЦЦА, *дзеясл.* Управіцца, паладзіцца. *Пычало ўжо днецца — чуць пасьпела ўправіцца з работай.* Камароўка Крыч. *Эйш, пыдгынятый знайшоўся, і біс цябе ўправімся.* Палуж Краснап.

УПРАСІ́ЦЬ, *дзеясл.* Упрасіць. *Ён, калі злосны, дык лепш ні йдзі — яго тады ні ўпросіш.* Касперка Міласл.

УПРАЎЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Упраўляцца, паспяваць. *Адзін я, нізмыга мыя ўпрыўляцца ўсюдых.* Гібалы Касцюк.

УПРА́ЎНЫЙ, *прым.* Спраўны. *Ён — хлапец упраўны, работа ў яго гарыць у руках.* Палуж Краснап.

УПРАШЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Упрошваць. *Дзяўчына стала ўпрашывыць бацькоў, штоб яны ні 'ддывалі яе за Сымона.* Сохана Мсцісл. *Думыіш, цябе упрашывыць бу-*

*дзім? Ня хочыш, і ня трэба, другога знойдзім.* Арцёмаўка Міласл.

У́ПРІЖ, -ы, *м.* Вупраж, збруя. *Ны харошыга кыня й упріж нада харошыя. Яму ўжу і хамут нада ладны, і вошкі рыменныя, і шлія харошыя.* Арцёмаўка Міласл.

УПРО́СЫ, -ыў, *мн. л.* Запрашэнне, упрошванне. *Ён цябе адразу ні паслухаець, нада пыпрасіць раз ды другі — ён упросы любіць.* Сохана Мсцісл.

УПРЫУЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Упраўляцца, спраўляцца з работаю. *Падыйшла кысавіца, а там і жніво пыдасьпела; работы — толькі ўпраўляйсь, а ён у падводы пасылаець.* Радзівонаўка Мсцісл. *Пайці ўпрыўляцца, дос сядзець, хутка скот с поля прыдзіць.* Добрае Мсцісл.

УПРЫЦЫВАЦЦА, *дзеясл.* Запрацавацца, стаміцца ад работы. *Упрыцываўсь, зьнімагі працую.* Хвёдараўка Краснап.

УПРЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Увапрэць, уваўрэць. *Цягнуў мех ды яшчэ кажух надзеў, дык так упрэў, што сьпіна мокра стала.* Старае Сяло Мсцісл.

УПРЯ́ЖА, -ы, *ж.* Вупраж, збруя. *Калёсы спраўныя, упряжа ўся новыя, запрігай — хоць у Піціръбурх.* Меліхава Смал.

УПУ́Д, -у, *м.* Спалох, перапуд. *Я так спужаўсь, што ня ведаў, куды беч с упуду.* Вярбоўка Расня́н. *Конь спужаўсь выўка і с упуду чуць ні пабіў калёсы.* Слаўнае Мсцісл.

УПУ́ДЗІЦЦА, *дзеясл.* Спужацца, спалохацца, кінуцца бегчы нястрымна. *Ішоў аўтобус — конь упудзіўсь і панёс!* Парадзіна Мсцісл. *Конь упудзіўся і абярнуў воз.* Дубеец Касцюк. *Конь упудзіўся і калёсы пылымаў.* Канахоўка Клім.

УПУЖА́ЦЦА, *дзеясл.* Спужацца, спалохацца. *Дзеці дужа ўпужаліся.* Палуж Краснап.

УПУСЬЦІЦЬ, *дзеясл.* 1. Упусціць. *Сьвіньні ўвесь гарод спустошылі, ці яны самі ўлезьлі, ці хто нарошна ўпусьціў.* Дарагая Крыч. *Адчыні хвортку і ўпусьці авец.* Слаўнае Мсцісл. 2. Выпусціць з рук. *На рэчку вазьмі абмылык, бо вялікій кусок упусьціш чысамі, дык будзе шкода.* Мсціслаў.

УПЫЎНАМО́ЦНІНЫЙ, *прым.* Упаўнаважаны. *Пріехылі ўпыўнамоцніныя ўсі — можна пычынаць сывішчаньня.* Клімавічы.

УПЭ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Забіць. *Кыбына свайго мы ўжо ўпэкылі.* Маластоўка Краснап.

УПЭ́ЦКАЦЬ, *дзеясл.* Запэцкаць. *Усю чыста сьвітку ўпэцкыў у гразь.* Папоўшчына Мсцісл.

УПЯЦЁХ, *прысл.* Упяцёх. *Упяцёх як узяліся, дык жыва кончылі, а ўдваіх бы і за дзінь ня зьдзелылі.* Пірагова Мсцісл.

УРАБЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Спалохацца, адчуць страх. *Кунюшкі ўрабелі, як пубачылі кыла коній выўка.* Маластоўка Краснап.

УРА́Д, -у, *м.* Урад. *Беларускі ўрад знаходзіцца ў Менску.* Ясенка Краснап.

УРА́Д, *прысл.* Радком. *Дзеўкі паселі ўрад, як віраб'і ны зыгародзьдзі.* Парадзіна Мсцісл.

УРАДЗІЦЦА, *дзеясл.* 1. Урадзіцца, нарадзіцца. *Тыкая я ўжо нішчасьлівыя ўрадзілыся — ні ў чым мне ні тыланіць.* Жэраціно Мсцісл. *Урадзіўсь хлапец: ні сабе, ні людзям, як той кажа.* Слабада Крыч. 2. Зарадзіць. *Мылая сёлета бульба ўрадзілыся.* Барысавічы Клім.

УРАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Зарадзіць. *На 'дзольлі ня сей, бо ўсё роўна нічога ня ўродзіць.* Тур'я Чэрык. *У нонешнім годзе бульба ўрадзіла.* Маластоўка Краснап.

УРАДЖА́Й, -ю, *м.* Ураджай. *Прышла камісія аглідаць ураджай ны карню.* Сохана Мсцісл.

УРАЖО́НЫЙ, *прым.* Прыродны, радзімы. *Што ў цябе зы пляма ны плячы? Ды гэта ж ўражоны знак — матка гэтак радзіла.* Ушакі Чэрык.

УРАЗ, *прысл.* Зараз, у адну хвіліну. *Я ета ўраз зьдзелыю.* Палуж Краснап. *Як сыбралысь уся дзярэўня на тылаку, скопым ураз жыта пыжалі.* Парадзіна Мсцісл.

УРАІЦЦА, *дзеясл.* Убіцца, улезці. *Нешта бабі ўраілыся ў гылаву, што сына ны дарозі забілі — німа, бач, доўга.* Палуж Краснап.

УРАНІЦЬ, *дзеясл.* Ураніць, выпусціць з рук. *Асьцярожна нясі, ато ўроніш — рызаб'еш.* Касцюшкавічы Крыч.

УРАНІЦЬ СЬЛЯЗУ. Заплакаць. *Вот жонка! Муж памёр, а іна й сьлязы ні ўраніла.* Крычаваткі Расня́н.

УРА́НКУ, *прысл.* Раніцою. *Уранку мы паехылі туды.* Палуж Краснап.

УРАНЬНІ, *прысл.* Раніцою. *Устаўшы ўраньні, бацька пашоў дываць каровым корму.* Лешчынка Мсцісл. *Мы пыкаліся, каб сустрэцца ў пынядзелак ураньні.* Пірагова Мсцісл.

УРАЎНІ, *прысл.* Роўна. *Васіль ураўні са мною.* Маластоўка Краснап.

УРА́ЦЬ, *дзеясл.* Ілгаць, маніць. *Ну, вот табе хрэст, што ні ўру!* Парадзіна Мсцісл.

УРЕМЯ, -я, *н.* Час. *Пуўтары гады — ета саўсім нібальшоя ўремя.* Арцёмаўка Міласл.

УРОВІНЬ, *прысл.* Роўна. *Ныклалі ны мыжару сена ўровінь з драбінымі.* Парадзіна Мсцісл.

УРОДА, -ы, *ж.* Калека ад роду, пачвара. *Відзіш, ён жа ўрода: у яго змалку ногі закручаны адна к аднэй палцамі.* Арцёмаўка Міласл.

УРО́ДЗІНА, -ы, *ж.* Пачвара. *Глянь ты на етую ўродзіну: сам, як бочка, а ногі кароцінькія.* Крычаў.

УРОДЛІВЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Калецтва. *Няўмысьля машыный адсеклі палцы, і ета ўродлівысьць ні даець пакою.* Слаўнае Мсцісл.

УРО́ДНЫЙ, *прым.* Наследны. *У яго тыкая ўжо ўродныя гордысьць: і бацька і дзед яго былі такімі.* Шумячы.

УРО́ДЫВЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Здзекавацца. *На што з хлебым уродуіш? Калі ня хочыш есьць, дык пылажы, а ўродывыць нечыга.* Палуж Краснап. 2. Бусавацца, дурэць, весці сябе груба, непрыстойна. *Ныбраўся сымагону — цяпер уродыя.* Хвёдараўка Краснап.

УРО́ЗЬ, *прысл.* Паасобку. *Яны жывуць ужо два гады ўрозь.* Маркаўка Хоцім.

*Ішлі ўмесьці, а прышлі ўрозь.* Васілеўка Хоцім.

УРОІЦЦА, *дзеясл.* Паказацца, убіцца ў галаву. *Яму нешта ўроілась.* Васілеўка Хоцім

УРО́К, -а, *м.* Урок, заданне. *Сяньні ўрок дужа цяжкі — ня вывучым.* Роськаў Калінінпчына.

УРО́КІ, -аў, *мн. л.* Урокі. *Дзіцёнык хвареіць, ета, мабыць, ў яго ўрокі; нада пайсьці ды бабкі, штоп пышыптала.* Машавая Мсцісл. *Нада вымыўляць урокі.* Галынец Краснап.

УРО́СКІДЗЬ, *прысл.* Ураскідку. *Ты арэш уроскідзь, а я ўсклад.* Хвёдараўка Краснап.

УРО́СЛЫЙ, *прым.* Высакарослы, вялікі. *Чылавек ён урослый, яго лёгка пызнаць: ён у тайпе вышэй за ўсіх.* Боханы Росл.

УРО́СЛЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Высакарослась. *Нада ж быць такой урослысьці, ік вірьста стыячыя.* Палуж Краснап.

УРО́ЎНІ, *прысл.* Роўна. *Вады ў калодзісі ўроўні з крыямі.* Арцёмаўка Міласл.

УРО́ЧЫШЧА, -а, *н.* Урочышча, месца ў полі або ў лесе, якое мае сваю назву. *У нас многа ўрочышчаў з чудными назвамі, напрыклад, «Кораб», «Стульчыкі» і іншыя мясцовасці.* Хвёдараўка Краснап.

УРУ́ГА, -і, *ж.* 1. Выгода, раскоша. *Янку ўруга: жывець ны рацэ каля лесу.* Куляшоўка Клім. *Тут ні паша, а ўруга тыкая, што каровы пы калена ў траве ходзяць.* Арцёмаўка Міласл. *Уруга статку на етым лузе: суха і травы пы калені.* Паўлавічы Клім. 2. Здзек, наруга. *Ета ж уруга над людзьмі — трецій раз на етый нядзелі склікаюць у волысьць.* Хвёдараўка Краснап.

УРУ́НІВЫЦЬ, *дзеясл.* Рунець, зелянець. *Наша жыта ны засьценку пычало ўрунівыць.* Канічы Касцюк.

УРУ́НІЦЬ, *дзеясл.* Урунець. *Жыта даўно ўзышло і добра ўжо ўруніла.* Сохана Мсцісл.

УРУ́НЬ, -і, *ж.* Выгода, раскоша. *Во ўрунь там: на выгыні травы пы калена, каровы дык лопаюцца ад жыру.* Арцёмаўка Міласл.

УРУ́ЧЫШЧА, -а, *н.* Тоўсты кій. *Пыцягнуў яго ўручышчым па сьпіне. Нашоў лоўкыя ўручышча, я цябе аттусую.* Хвёдараўка Краснап.

УРЫДЖА́Й, -ю, *м.* Ураджай. *У кыляды дарога чорна — улетку будзіць урыджай ны грячыху.* Дубеец Касцюк. *Летысь быў добры ўрыджай.* Хоцімск. *Ноўка дае добрый урыджай.* Хвёдараўка Краснап.

УРЫКАЦЦА, *дзеясл.* Адмаўляцца. *Ні ўрыкайся: ты ета зрабіў!* Радзілёў Краснап.

УРЭДКУ, *прысл.* Рэдка, зрэдку. *Я хаджу да іх, але ўрэдку.* Канічы Касцюк.

УРЭ́ДНЫЙ, *прым.* Шкодны. *Сымон урэдный чылавек — ён так і глядзіць, штоб якую пакысьць ізьдзелыць.* Юр'евічы Крыч.

УРЭ́ЗЫК, -зка, *м.* Адрэзак, кавалак. *Куды ты дзеніш урэзык етый? З яго і штаноў ні пашыеш.* Хвёдараўка Краснап.

УРЭ́МЯ, -я, *н.* Час. *Іван усё ўрэмя аж па сьмерць клыпаціўся аб сваіх пляменьніках.* Пірагова Мсцісл. *Паедзім скарэй, можа й заскочым у ўрэмя.* Палуж Краснап.

УРЯДКУ́, *прысл.* Побач. *Мы йшлі ўрядку зь ім.* Канічы Касцюк.

УРЯ́ДНІК, -а, *м.*Ураднік, паліцэйскі чын на вёсцы пры старым ладзе. *Бывала, як прыедзіць урядпік, дык і знай, што некія ніпырядкі знайшліся.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Як пычылася рывалюцыя, дык наш урядпік уцёк.* Гібалы Касцюк.

УСАДЗІ́ЦЦА, *дзеясл.* Засесці, улезці. *Пы калена ў лужыну ўсадзіўся.* Палуж Краснап.

УСАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Усадзіць. *Усадзіў руку ў кішэню і дыстаў два кускі цукру.* Канава Хоцім.

УСЁ, *прысл.* Усё [пастаянна]. *Ета такій ніцэй чылавек — усё круціць, ніколі праўды ні скажыць.* Парадзіна Мсцісл.

УСЕ́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* Уседзець. *Нейкія калёсы такія дрогкія, што й ні ўседзіць на іх.* ГорлаваРаснян. *Пыжык етый ня ўседзіць на 'дным месьці.* Хвёдараўка Краснап.

УСЕ́ДНО, *прысл.* Усё адно, усё роўна, быццам. *Усёдно ён дурань.* Васілеўка Хоцім. *Січас толькі пылажыў рукавіцы, і ўжо німа: усёдно як чэрці схапілі іх.* Арцёмаўка Міласл.

УСЕ́ІНЫЙ, *прым.* Усеяны. *Лог вясною ўсеін краскымі.* Слаўнае Мсцісл.

УСЕ́ІЦЬ, *дзеясл.* Усеяць. *На небі стольки зор, што быццым нехта імі ўсеіў усё неба.* Горлава Раснян.

УСЕРО́ЎНА, *прысл.* Усё роўна, усё адно, быццам. *Наша хата маленькая, усероўна як кельня.* Канічы Касцюк. *Клумку хлеба ныбраў, усероўна, як на месіц едзіць.* Камароўка Крыч. *Мядок ці дзятлывіна — усероўна.* Хвёдараўка Краснап.

УСЕ́СЦА, *дзеясл.* Усесціся, сесці. *Мне хочыцца з ныгамі лаўчэй усесца на канапі.* Слаўнае Мсцісл. *Мяшчуся, мяшчуся, ніяк ні ўсядуся.* Палуж Краснап.

УСЕ́ЧЫНЫЙ, *прым.* Ссечаны, зрубаны. *Усечыныя верба пусьціла расткі з корняў.* Парадзіна Мсцісл.

УСІГДА́, *прысл.* Заўсёды. *Кыла нашый хаты ўвясну ўсігда цякець равок.* Канічы Касцюк.

УСІГДА́ШНІЙ, *прым.* Заўсёдны. *Зь ім ета не першыня, ета ўсігдашнія гісторыя.* Жэраціно Мсцісл.

УСІ́Д, -у, *м.* Усед, уседлівасць. *Усіду табе німа, вяртун! Круціцца, як шыла якоя.* Палуж Краснап.

УСІЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Знясільваць. *Сон гылаву ўсіляя, ні магу сядзець.* Самацевічы Касцюк.

УСКАРМІ́ЦЬ, *дзеясл.* Выкарміць, вырадаваць. *Ета карова свыя гудуванка: самі ўскармілі і ўспаілі.* Арцёмаўка Міласл.

УСКАЧЫ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Схапіцца. *Хвораму нешта павідзілась страшныя — ускачыў с пасьцелі і хацеў біжаць.* Арцёмаўка Міласл. 2. Набегчы, вырасці раптам. *Ударіла я аб прітылку лоб, ну такій гуз ускачыў, што вока ні відаць.* Слаўнае Мсцісл.

УСКІДЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Ускідваць, трэсці, торгаць. *Чаго ты плічамі ўскідываіш?* Касперка Міласл.

УСКЛУМІЦЦА, *дзеясл.* Зашумець, занепакоіцца. *Чаго йта дзеці ўсклуміліся? Сьціш ты іх.* Горка Краснап.

УСКОРМНІК, -а, *м.* Выхаванец. *Піліп — ня сын Яўмена, а толькі яго ўскормнік.* Палуж Краснап.

УСКОЧЫЦЬ, *дзеясл.* Ускочыць, улезці. *Ускочыў у крапіву, йна як піканець мяне, дык во якея пузыры пыўскачылі.* Балакеры Мсцісл.

УСКУБЦІ, [ускубсьць], *дзеясл.* Ускубці, паскубаць. *Дренный быў пупас конім, нічога яны не ўскублі.* Палуж Краснап.

УСЛОН, -а, *м.* Услон, зэдаль. *Прыстаў услон к сталу ды садзіся, будзем сьнедаць.* Камароўка Крыч. *На ўслоні, кыла печы, матка пряла лён.* Слаўнае Мсцісл. *Сядзь на ўслон.* Палуж Краснап.

УСЛОНЕЦ, -нца, *м.* Услончык, зэдлік. *Прынясі мне ўслонец, я сяду трохі адпачыць.* Прыпечына Касцюк.

УСЛОНЧЫК, -а, *м.* Памянш. ад услон. *Сядзь, дзетка, на ўслончык ды набуйся, ато холыдна на масту.* Карма-Пайкі Краснап.

УСЛУХЫЦЬ, *дзеясл.* Паслухаць, стаць паслухмяным. *Сын услухыў бацьку — пашоў на зыработкі.* Восаў Краснап.

УСЛУЧАЙ, *прысл.* Выпадкам. *Услучай я ні прыду, вячэрыйця бізь мяне.* Палуж Краснап.

УСНОВА, -ы, *ж.* Аснова. *Вытқыла пяць губык пылытна, а ўснова ўсё кужэльная.* Парадзіна Мсцісл. *Уснова нікрэпкыя, ніткі ўсё рвуцца.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

УСОВІСЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Зрабіць больш сумленным, пасароміць. *Ніхто злодзія ня ўсовісьціць. Людзі ўсовісьцілі хлыпца, пірімяніўсь саўсім.* Палуж Краснап.

УСОХНУЦЬ, *дзеясл.* Усохнуць, засохнуць. *Нешта наша яблыня ўсохла, што йта такоя?* Пірагова Мсцісл.

УСПАДОБА, -ы, *ж.* Успадоба. *Пірабірлівэй ты дужа, шмат пірабіраеш: тая нікрасівыя, а тая работыць ні ўмеіць — ні найдзеш ды ўспадобы дзяўчыны.* Кокатава Мсцісл.

УСПАІЦЬ-УСКАРМІЦЬ, *дзеясл.* Выгадаваць. *Чужоя дзіця — ні сваё: успоішускорміш, а табе й спасіба ні скажыць.* Арцёмаўка Міласл.

УСПАМІН, -у, *м.* Успамін. *Дай мне сваю картку на ўспамін.* Прусіна Касцюк. *Толькі ўспаміны асталісь ад таго жыцьця.* Горня Хоцім.

УСПАМІНАЦЬ, *дзеясл.* Успамінаць. *Доўга будуць успамінаць нябожчыка — добрый быў чылавек.* Крычаў. *Нізабытный мой дзіцёнычак, век цябе буду ўспамінаць.* Пірагова Мсцісл.

УСПАХЫНЫЙ, *прым.* Узараны. *У мяне яшчэ клін ні ўспахыный зыстаўсь, нада заўтрі паехыць успыхаць.* Стары Дзедзін Міласл.

УСПЕЗАК, -зка, *м.* Невялікі ўзгорак. *Дзеці кыўзаюцца з успезкаў.* Бабынічы Мсцісл.

УСПЛЫЦЬ, *дзеясл.* Выплыць наверх. *У пінькамоччы выда закісла, і рыба ўсплыла наверьх.* Бяседавічы Хоцім.

УСПОЛКУ, *прысл.* Супольна. *Усполку с суседым купілі бычка ны мяса.* Б. Хутары Краснап.

УСПОМНІЦЬ, *дзеясл.* Успомніць. *Як памрэш, дык успомніць цябе будзіць не зышта.* Старае Сяло Мсцісл. *Успомніў ён задняе, што было пяць год нызад, і шкода стала.* Ушакі Чэрык.

УСПОУЗЬЦЬ, *дзеясл.* Успаўзці. *На грыб успоўз сьлімак.* Сохана Мсцісл. *Ны цябе ўспуўзла казюлька, ськінь яе.* Слаўнае Мсцісл.

УСПУХЛЫЙ, *прым.* Апухлы. *Іван, мабыць, ніздароў: ліцо абвязына, весь успухлый.* Канічы Касцюк.

УСПЫМЫГАНЬНЯ, -я, *н.* Дапамога. *Успымыганьня ніякыга мне ні даюць, прыходзіцца ў старцы йіціць.* Маластоўка Краснап.

УСПЫУЗАЦЬ, *дзеясл.* Успаўзаць. *Богыва кароўка ўспыўзаіць на былку.* Хвёдараўка Краснап.

УСПЫХАЦЬ, *дзеясл.* Узараць. *Сяньні нада ўспыхаць, а заўтрі пасеіць.* Азерцы Клім. *Прыхватым успыхаў палоску.* Хвёдараўка Краснап.

УССАЖВАЦЬ, *дзеясл.* Насаджваць, надзяваць. *На пруток уссажваюць цэўку і ўстаўляюць у чаўнок, а тады ткуць.* Парадзіна Мсцісл.

УССУНУЦЬ, *дзеясл.* Уссунуць. *Ён хацеў мне мяшок на воз уссунуць, ну я адкызаўся.* Лешчынка Мсцісл.

УСТАВІЦЬ, *дзеясл.* Уставіць. *Нада бондыру дзежку зынясьці, штоб дно новыя ўставіў.* Немерка Расиян. *Нада ўставіць закліньк у касу.* Хвёдараўка Краснап. *Устаў лучыну ў сьветуш, а сам бягі прынясі міску з вадой.* Паўлавічы Клім.

УСТАНОВА, -ы, *ж.* Установа. *У нас установа тыкая — пумугаць адзін аднаму ў рабоце.* Цівецкая Краснап.

УСТАРКНУТЫЙ, *прым.* Насаджаны, устыкнуты. *Сала ўстаркнута ны лавец.* Палуж Краснап.

УСТАРКНУЦЬ, *дзеясл.* Насадзіць на шпень. *Устаркні на палычку грыб ды сьпякі яго ны агні.* Зоры Чэрык.

УСТАЎЛЕНЫЙ, *прым.* Устаўлены. *У вакно ўстаўлена новыя рама.* Машавая Бялынкав.

УСТАЦЬ, *дзеясл.* Устаць. *Так бразнуўсь, што ўстаць ні можыць — ляжыць біз усякый прытомнасьці.* Ушакі Чэрык. *Устань-ка, прачурайся: людзі даўно ны работу пашлі.* Гібалы Касцюк. *Як устала, дык зраньня і да вечыру ны ныгах.* Парадзіна Мсцісл. *Дзеці ўжо ўсталі, пабеглі на рэчку.*

УСТОРКНУТЫЙ, *прым.* Насаджаны на шпень. *Лядзі, грыбок усторкнуты на сучок: ета белка ўсторкнула сушыць.* Палуж Краснап.

УСТРЫМАЦЦА, *дзеясл.* Устрымацца. *Прамерз, дык ёкат прыняў — ніяк ні магу ўстрымацца.* Негін Касцюк.

УСТРЫМАЦЬ, *дзеясл.* Устрымаць, за-

трымаць. *Я б з імі пашоў, калі б мяне ня ўстрымала матка.* Юзафоўка Хоцім.

УСТУПАЦЬ, *дзеясл.* Уступаць, перапускаць. *Ён табе ні ройня, гадоў ны дваццыць старшы, а старым усягды нада ўступаць ва ўсём.* Бяседавічы Хоцім.

УСТУ́ПІЦА, -ы, *ж.* Ступіца, трубка ў коле. *Уступіца паськіпалысь, нада арэхву набіць.* Вярбоўка Раснян.

УСТУПІЦЦА, *дзеясл.* Уступіцца, заступіцца. *Забіжаюць хлыпца, і некыму зы яго ўступіцца.* Вітрунь Касцюк.

УСТУПІЦЬ, *дзеясл.* Уступіць, зрабіць уступку, уважыць. *Ладныя жаробка ў Якыва: лішашок усяго, а іншыму пярэзімку ня ўступіць.* Мацутаўка Раснян.

УСТУПЛІВЫЙ, *прым.* [Уступчывы], уважны. *Ён хлопіц харошый, уступлівый; ніколі ні с кім ні сварыцца, лучча сваё уступіць, а сварыцца ня будзіць.* Бяседавічы Хоцім.

УСТУ́ПЛІНЫЙ, *прым.* Збаўлены. *Уступліный пітак вартней зы рубля.* Бяседавічы Хоцім.

УСТУРБУВАНЫЙ, *прым.* Устурбаваны, патрывожаны. *Міхась прыбег ды мяне нейкій устурбуваный, зьбянтэжаный.* Шэвялёўшчына Мсцісл.

УСТУРБУВАЦЬ, *дзеясл.* Устурбаваць, патрывожыць. *Пад елкай спаў заіц, а мы яго ўстурбувалі, дык ён калі прыгніць!* Слаўнае Мсцісл.

УСТЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Уставаць. *Ны дваре ўжо раньня — устывацъ пыра.* Гібалы Касцюк. *Дос табе спаць — устывай!* Зарубец Крыч. *Ліна была ўстывацъ дужа рана, а прыйшлось.* Палуж Краснап.

УСТЫУЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Устаўляць. *У стайно ўстыўляюць гребінь і прадуць тады.* Студзянец Касцюк. *Нада ўстыўляць дубальтовыя вокны, холадна ўжо.* Валымар Раснян.

УСТЫЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Устаяць. *Прыткій конь, ны адным месьці ўстыяць ніяк ня можыць.* Слаўнае Мсцісл. *Такій пьяный, што ны ныгах устыяць ня можыць — валіцца.* Дзеражна Касцюк.

УСУ́НУЦЦА, *дзеясл.* Усунуцца. *Усунуўся ў кайдобіну і абмачыўсь па поіс.* Пархвенава Мсцісл. *Ішоў упоцімку ды ўсунуўсь у кынаву.* Ушакі Чэрык.

УСХАПІЦЦА, *дзеясл.* Раптам узнікнуць, ускочыць. *Пычысала руку, дык бруздыль які ўсхапіўся.* Хвёдараўка Краснап.

УСХОДЗІЦЬ, *дзеясл.* Узыходзіць. *Вунь і месік усходзіць.* Студзянец Касцюк. *Жыта ўжо ўсходзіць, гусьцінька так, роўнінька высыпая.* Зяціца Мсцісл.

УСХО́ДНЫЙ, *прым.* Усхожы. *Жыта праверіна, усходныя, можна сеіць сьмела, дырьма, што ні сёлітнія.* Палуж Краснап.

УСХОДНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Усхожасць. *Пшаніцу нада праверіць на ўсходнысьць піряд сяўбой.* Лютня Краснап.

УСХО́ЖЫЙ, *прым.* Усхожы. *Етыя квасоля дужа ўсхожыя: ніводныя каліва ні прыпадаіць, усі ўсходзюць.* Машавая Бялынкав. *Ета семя ўсхожыя, яно яшчэ ні пупсувалыся, хоць і трі гады ляжыць.* Слаўнае Мсцісл.

УСХО́НА, *прысл.* Адхона. *Тут дарога ўсхона спускаіцца з гары.* Маркаўка Хоцім.

УСХО́НЫЙ, *прым.* Адхоны. *На ету гару цяжка ўсходзіць, яна дужа ўсхона.* Канічы Касцюк.

УСХЫМЯНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Усхамянуцца, апамятавацца. *Усхымяніся ты, што ты хочыш рабіць?* Хвёдараўка Краснап. *Найшло нейкыя аклумленьня, ніяк усхымянуцца ні магу.* Журбін Бялынкав.

УСЧА́ПІЦЬ, *дзеясл.* Навязаць, гвалтам прымусіць. *Усчапілі ны мяне абывязык — кырагуліць сад уночы, як нікога другога ні знайшлі на ета дзела.* Мсціслаў.

УСЫ́ПАЦЬ, *дзеясл.* Усыпаць. *Етыя жаміркі нада сьвіньням у мяшонку ўсыпаць.* Новы Дзедзін Міласл.

УСЫПА́ЦЬ, *дзеясл.* Засыпаць. *Дзіцёнык ні ўсыпая, як я яго ні калыхала.* Палуж Краснап.

УСЫ́ПІШЧА, -а, *н.* Месца, куды ссыпаюць зярно. *У ета ўсыпішча многа ўлезіць жыта.* Хвёдараўка Краснап.

УСЬКІНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Накінуць. *Кажушок на плечы ўськінуў і пабег недзе.* Хвёдараўка Краснап. 2. Закінуць наверх. *Уськінь на печ лучыну, ніхай высыхніць.* Хвёдараўка Краснап. 3. Набіць. *Яму здорыва ны кажух уськінулі.* Усцінавічы Краснап.

УСЬЛЕ́Д, *прысл.* Следам. *Ты йдзі за ім усьлед, куды ён цябе прывядзець.* Юшкі Мсцісл. *Усьлед за ім і жонка прышла.* Камароўка Крыч.

УСЬЛЕ́ДНІК, -а, *м.* Паслядоўнік. *Усьледнік нашыга старіга ўчыціля — чылавек правільнай жызьні.* Аляксандраўка Краснап.

УСЬМЕ́Х, -у, *м.* Усмешка. *Дзеўка з усьмехым пыглядзела на хлыпца.* Палуж Краснап.

УСЬМЕ́Х, *прысл.* Насмех. *Хлыпца пыднялі ўсьмех, а той ня ведыіць, што і дзелыць.* Вербеж Чэрык.

УСЬМІ́Р, -у, *м.* Супакой. *Ды зымайчыця вы, дзітвыра, усьміру ны вас німа!* Палуж Краснап.

УСЬМІШКА, -і, *ж.* Усмешка. *Пы яго ліцу расплылася радысныя ўсьмішка, як толькі ўбачыў мяне.* Сохана Мсцісл.

УСЬМЯХУ́, *прысл.* Смехам, несур'ёзна. *Хадорка любіла яго ўсьмяху.* Бялынкавічы.

УСЬПЕЗЫК, -зка, *м.* Узмежак, насып, курган. *Як узьехаў на ўсьпезык, дык пулумаў вось.* Хвёдараўка Краснап.

УСЬПЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Паспець. *Такая ніўхватка: нада і тоя і другоя ўсьпець зьдзелыць.* Арцёмаўка Міласл.

УСЬСЕ́СЬЦЬ, *дзеясл.* Сесці вярхом. *Кунюхі ўсьселі на коній і паехылі.* Маластоўка Краснап. *Верхі на злодзія ўсьсеў ды дувай яго душыць.* Палуж Краснап.

УСЬЦЕ́РВІЦЦА, *дзеясл.* Унадзіцца. *Воўк усьцервіўся жырыбятык рэзыць — усіх пірярэжыць, калі ні забіць яго.* Хвёдараўка Краснап.

УСЬЦЯЖ, *прысл.* Усцяж. *Сёліта ны лагу ўсьцяж добрыя трыва.* Добрае Мсцісл. *Ідзі ўсьцяж па полі, дык недзе знойдзеш.*

Кокатава Мсцісл. *Бярозка ўецца ўсьцяж пы зямлі.* Пірагова Мсцісл.

УСЮ́ДЫ, *прысл.* Усюды. *Вучоныму чылавеку ўсюды дарога.* Палуж Краснап. *Ат цябе дыбра чыкаць нечыга, ты ўсюды стыраісься мне нашкодзіць.* Ушакі Чэрык.

УСЮ́ДЫХ, *прысл.* Усюды. *Цябе ўсюдых поўна, усюдых ты пасьпеіш.* Васілеўка Хоцім. *Нізмыга мыя ўпраўляцца ўсюдых.* Гібалы Касцюк. *Етый ніцый усюдых відзіць.* Кокатава Мсцісл.

УСЯГДЫ́, *прысл.* Заўсёды. *Мой мужык усягды прыходзіць позна з работы.* Лешчынка Мсцісл. *Ен усягды такей сухушчавэй: косьці тырчаць усюдых.* Арцёмаўка Міласл.

УСЯ́ДЗІСТЫЙ, *прым.* 1. Прысадзісты, нізкі ростам, але здаровы. *Ох, брат, ты ўсядзістый. Усядзістэй твой хлапчук.* Хвёдараўка Краснап. 2. Тоўсты, пузаты. *Ты на плечы тонык, затое на пуза ўсядзістэй.* Там жа.

УСЯДЫ́, *прысл.* Заўсёды, усягды. *Мне ў карты ўсяды шанціць.* Слаўнае Мсцісл. *Я ўсяды ўспамінаю яго з удзячнасьцю.* Гарадок Расиян.

УСЯЕ́ДНЫЙ, *прым.* Усяедны. *Сьвіньня, вядома, усяедныя нечысьць.* Хвёдараўка Краснап.

УСЯЕ́ДНЫЯ НЯДЗЕ́ЛЯ. Тыдзень перад масляніцай. *Маё вясельля было на ўсяеднай нядзелі.* Гібалы Касцюк.

УСЯ́К, *прысл.* Усяк. *Ны вайне ўсяк буваіць: буваіць, што ні ўперыд ісьці, ні нызад уцячы.* Дзеражна Касцюк.

УСЯ́КАВА, *прысл.* Усяк, розна. *Усякава быцаець ны вяку: і добра і дрэнна.* Ушакі Чэрык.

УСЯ́КІЙ, *прым.* Усякі. *Усякій ба хацеў смашна есьць, ды не прыходзіцца.* Гарбавічы Касцюк. *Усякыя мыляўка нос суець ні ў сваё дзела.* Бакунавічы Чэрык. *Суравежак у лесі многа: і красныя, і жоўтыя — усякія.* Парадзіна Мсцісл. *Пыналезла ўсякыга набродy — крычаць, шумяць, нічога ні рызьбярэш, што там робіцца.* Мацутаўка Расиян.

УСЯ́НІШЧА, -а, *н.* Аўсянішча, поле пасля зжатага аўса. *Ні пасьпелі зжаць авёс, а ны ўсянішча ўжо коній пынывялі поўна.* Слаўнае Мсцісл.

УСЯ́НЫЙ, *прым.* Аўсяны. *Прымішай да сена ўсяныя саломы ды страсі трысяніцы.* Пацкава Мсцісл.

УТ, *часц.* Вот, вось. *Ны Сымацэвічы ут етым пуцём, ут етый дарогый ехыць трэба.* Брылёўка Краснап.

УТА́ЙКУ, *прысл.* Употайкі. *Мой Грышка ўцёк сяньні ад мяне ўтайку, дык во ніяк не знайду, айдзе ён.* Добрае Мсцісл.

УТАМІ́ЦЦА, *дзеясл.* Стаміцца. *За дзень, бегаўшы за коньмі, чыста ўтаміўся.* Міцькаўшчына Мсцісл.

УТАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Утануць, утапіцца. *Іна ў вызярыні ўтанула.* Бардзіч Краснап.

УТАПІ́ЦЦА, *дзеясл.* Утапіцца, утануць. *Хлеб пыдыйшоў, і надзежнік утапіўсь у цеста.* Бяседавічы Хоцім. *Я ўчоры чуць ні ўтапіўсь у рэчкі.* Ушакі Чэрык. *Тут нідоўга і ўтапіцца, бач, якая вір.* Каробчына Мсцісл.

УТАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Утапіць. *Пашоў ваду браць і вядро ўтапіў у калодзіжы.* Палуж Краснап. 2. Напаліць моцна печ. *Сяньні ў хаці дужа душна, нада ж было так сілна ўтапіць.* Маластоўка Краснап.

УТАРО́П, -у, *м.* Атарапеласць, стан атарапення. *Як увідзіў мірцьвіца, дык ні спужайся, а нейк утароп мяне ўзяў: стаю, як стоўп, і ні магу зь места дзьвінуцца.* Арцёмаўка Міласл.

УТАРО́ПІЦЦА, *дзеясл.* Утаропіцца. *Чаго ты ўтаропіўся і глядзіш, як быран на новыя вароты?* Журбін Бялынкав.

УТАРЫ́К, -а, *м.* Самагонка другога гатунку. *Утарык, як выда — аніякый крепысьці.* Хвёдараўка Краснап.

УТО́ІНЫЙ, *прым.* Утоены, прысвоены, чужы. *Етый мяшок утоіный. Яшчэ як вазілі бульбу ны станцыю, дык ён у мяне астаўсь; апысьля яго і спрашывалі, а я скызаў, што пыціряў.* Бяседавічы Хоцім.

УТО́К, утка́ і утку́, *м.* Уток, ніткі, якімі патыкаюць аснову. *Уснова ў маіх кроснах партная, а ўток суконный.* Пірагова Мсцісл. *У мяне ўтку ні хапіла, і красён дыткаць німа чым.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

УТО́ПЛІНІК, -а, *м.* Утопленік, тапелец. *Відзіш ету, адну сабе магілку, у ёй ляжыць утоплінік — летысь ён зытапіўся.* Бяседавічы Хоцім.

УТО́ПНІК, -а, *м.* Утопленік, тапелец. *Рыбакі выцігнулі нерытым утопніка, туды ўжу міліцынер пайшоў.* Мсціслаў.

УТО́РКНУЦЬ, *дзеясл.* Уторкнуць. *Уторкні тапор у галоўкі ў іцьвіну.* Аршаншчына.

УТО́РЫК, -а, *м.* Аўторак. *Уторык — счасьлівый дзень: нада пычынаць сеіць.* Горня Хоцім.

УТО́ЎШЧКІ, *прысл.* Утаўшчыню. *Ета пылатно ўтоўшчкі будзіць такоя, як і маё, толькі ета лучны выбіліна і шырі.* Арцёмаўка Міласл.

УТО́ЧВЫЦЬ, *дзеясл.* Уточваць. *Кыбат кароткій ны цябе, нада ўточвыць.* Палуж Краснап.

УТО́ЧКА, -і, *ж.* Уточка, устаўка, ушыванне. *Кохта ў грудзях вускыватыя, я ўстаўлю пыдпахі ўточку і будзець ладна.* Маластоўка Краснап.

УТРАПЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Утрапенне, вялікая бяда. *Ета ж утрапеньня! Усю капусту коні зьелі.* Куркаўшчына Мсцісл.

УТРОВЫ́, *прысл.* У траву, калі растуць травы. *Каровы ўтровы мылако прыбыўляюць.* Хвёдараўка Краснап.

УТРЫНЦА́ЦЦА, *дзеясл.* Умешвацца. *У чужыя дзялы ні ўтрынцайся.* Куркаўшчына Мсцісл. *Ні ўтрынцайся ты ні ў сваё дзела.* Кокатава Мсцісл.

УТРЫЯ́, *прысл.* Утрая, у тры разы. *Пыдарэўські бигацей зы нас утрыя.* Палуж Краснап.

УТРУ́Х, *прысл.* Трушком. *Мой конь утрух, а яго наўскыч бяжыць і чуць пысьпіваіць за ім.* Бяседавічы Хоцім.

УТУ́ЛАК, -лка, *м.* Букса. *Еты ўтулак у кутку ўжу рызмалоўся, нада ўставіць но-*

вый. Ташна Клім. *Каткі ўжо гатовы, толькі нада ўтулкі ўсадзіць.* Пухнава Раснян. *Я во ні ўставіў утулку у каткі, дык год паезьдзіў, і каткоў німа.* Бяседавічы Хоцім.

УХАДЖОРЬ, -я, *м.* Хлопец, што заляцаецца да дзеўкі. *У Насты ўхаджоріў быгата, толькі ўзамуж ні бяруць.* Тур'я Краснап.

УХАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Уцякаць. *Ухадзі ты адцюль скарэя, ато пупадзець яшчэ.* Асмолавічы Мсцісл.

УХАДЭЙСЫЦЬ, *дзеясл.* Забіць, ухаёдваць, ухайдэкаць. *Ета такій разбойнік, яму нічога ні стоіць чылавека ўхадэйсыць.* Хвёдараўка Краснап.

УХАЁДЫВЫЦЬ, *дзеясл.* Забіць, ухадэйсаць, ухайдэкаць. *Ён яго ўхаёдывыў ды паўсьмерці.* Хвёдараўка Краснап.

УХАЖОР, -а, *м.* Хлапец, што заляцаецца да дзяўчыны. *Ніныглядный яе ўхажор пpішоў.* Арцёмаўка Міласл. *Етыга ўхажора я б пы зубам трэснуў.* Палуж Краснап.

УХАЙДЭКАЦЬ, *дзеясл.* Забіць, ухадэйсаць. *Васіля-ткі ўхайдэкылі, пупаўсь нейдзі.* Хвёдараўка Краснап.

УХАПІЦЦА, *дзеясл.* Ухапіцца, узяцца. *Ухапіўся аберуч зы палку й ня пускаіць.* Іванаўка Хоцім. *Ухапіўся за грудзі, крыкнуў нешта і тут жа памёр — серца ня вытрымала.* Ушакі Чэрык.

УХАПІЦЬ, *дзеясл.* Схапіць. *Ухапіў ён мяне за плечы й пываліў.* Маркаўка Хоцім.

УХВАТОШЧЫХ, *прысл.* Спяшаючыся, ухапошчы. *Схапіла ўхватошчых платок, а хвартух так і забыла.* Лешчынка Мсцісл.

УХВАТЫ, -ыў, *мн. л.* Вілкі для гаршкоў. *Вазьмі ўхваты ды пыстаў гаршкі ў печ.* Азерцы Клім.

УХОВЫ, -аў, *мн. л.* Сховы, схованка. *Нявестка разнісла сваё дабро ў уховы па суседзям.* Сохана Мсцісл.

УХОД, -у, *м.* Заспакаенне. *Німа табе ўходу, усюдых ты пасьпеіш, сядзь ды сядзі паціху!* Хвёдараўка Краснап.

УХОДЫВЫЦЦА, *дзеясл.* Стаміцца, ходзячы. *Уходывыўся за дзінь, дык сьпіць цяпер.* Хвёдараўка Краснап.

УЦАЛІ, *прысл.* Сапраўды. *А хоць бы і ўцалі я гэта зрабіў, дык што, хто мне можа што скызаць?* Кокатава Мсцісл.

УЦЕКІ, -аў, *мн. л.* Уцёкі. *Пра ўцёкі й думыць нечыга — ні ўцякеш; адно спасеньня — сядзець у нары і ні вылазіць, пакуль ні пірістануць стрыляць.* Машавая Бялынкав.

УЦЕН, -у, *м.* Боль у сярэдзіне. *Мяне як схваціў уцён, дык ні сесьці, ні стаць няможна — так баліць сярэдзіна.* Горкі Краснап.

УЦЕРПІЦЬ, *дзеясл.* Уцярпець. *Бабі скажы толькі, дык яна ня ўцерпіць — пірідасьць куме.* Слаўнае Мсцісл.

УЦІКАЦЬ, *дзеясл.* Уцякаць. *Я бачу, што ніўзяткі, дык дывай уцікаць.* Тур'я Краснап. *Янка! Уцікай ад Пынаса, ато будзець біць.* Чыгрынаўка Раснян.

УЦІКАЧ, -а, *м.* Уцякач. *Кінуўся ўдагон за ўцікачом і пыймаў-такі.* Арцёмаўка Міласл. *У нашым лесі прытуліўся нейкі ўцікач.* Лешчынка Мсцісл.

УЦІРАЛЬНІК, -а, *м.* Ручнік. *Маці, дай чысты ўціральнік, ато ўжо дужа гразны.* Камароўка Крыч. *Уціральнік увесь мокры, і ўцерцісь нечым, дай, Ганна, якую анучу.* Зоры Чэрык.

УЦІРАЧ, -а, *м.* Ручнік. *Німа ўцірыча, чым рукі выцерць?* Іванаўка Хоцім.

УЦІРКА, -і, *ж.* Ручнік. *Уцірка вунь на круку вісіць, бяры ды ўцірайсь.* Юшкавічы Раснян. *Дай, Мар'я, чыстую ўцірку.* Машавая Бялынкав. *Уцірка вісіць на шасту.* Людагошч Мсцісл.

УЦІСК, -у, *м.* Уціск. *Ох, якей быў уціск! Ня сьмелі слова скызаць супроць.* Ушакі Чэрык.

УЦІСНУТЫЙ, *прым.* Уціснуты. *Правервь, ці добря ўціснутый воз, штоб ні раструсіўсь у дарогі.* Карма-Пайкі Краснап.

УЦІСНУЦЬ, *дзеясл.* Уціснуць, цесна ўвязаць. *Уцісні добра воз, штоб ні рызьвізаўсь.* Хвёдараўка Краснап. *Пымажы мне воз уціснуць.* Журбін Бялынкав.

УЦІХАМІРЫЦЦА, *дзеясл.* Заспакоіцца. *Дзеці, пыра вам ужо ўціхаміріцца, ато раскрычаліcь, што гылыва разьлігаіцца ат вашыга лоскыту.* Юркаўка Крыч.

УЦІХАМІРЫЦЬ, *дзеясл.* Супакоіць. *Ці нільзя вас уціхамірыць? Нешта вы ўсхадзіліcь.* Беразяк Краснап.

УЦІХАЦЬ, *дзеясл.* Уціхаць, пераставаць. *Дзіцёнык ні ўціхая крычыць, пайдзі пакліч матку.* Хвёдараўка Краснап. *Боль троху ўціхая, ужо ні так баліць.* Канахоўка Клім.

УЦІШЫЦЦА, *дзеясл.* Сціхнуць. *Рысплакыўся хлапец, сморгыя і ніяк ні ўцішыцца.* Хвёдараўка Краснап.

УЦІШЫЦЬ, *дзеясл.* Заспакоіць. *Заходлівыя дзіця, ніяк яго ня ўцішыш.* Хвёдараўка Краснап.

УЦОТ, *прысл.* Парамі, двойкамі. *Пыпала табе якраз уцот: двацыць два рахі.* Мацутаўка Раснян.

УЦЫЦНУЦЬ, *дзеясл.* Уціхнуць. *Уцыцніця, дзеці, дос плакыць.* Палуж Краснап.

УЦЭЛІЦЬ, *дзеясл.* Папасці ў цэль, улучыць. *Я хацеў уцэліць з ружжа ў лісіцу, ды ні ўцэліў — прымахнуўсь.* Слаўнае Мсцісл.

УЦЮЖЫЦЬ, *дзеясл.* Прасаваць, біць. *Тодыр Пайла як уцюжыў, крый ты бог — думалі заб'ець.* Палуж Краснап.

УЦЯГНУТЫЙ, *прым.* Уцягнуты. *Уцягнутыя ў каток вожжы ныцягнуліcь, і конь стаў.* Парадзіна Мсцісл.

УЦЯГНУЦЬ, *дзеясл.* Уцягнуць, зацягнуць. *У лапці нада ўцягнуць новыя аборкі.* Машавая Бялынкав.

УЦЯМІЦЬ, *дзеясл.* Уцяміць. *Ні магу ўцяміць, дзе я бачыў етыга чылавека.* Кокатава Мсцісл.

УЦЯЧЫ [уцеч], *дзеясл.* Уцячы. *Як вялі яго на суд, дык ён хацеў уцеч: кінуўся бежч, а тут яго й спыймалі.* Слаўнае Мсцісл.

УЧАПІЦЦА, *дзеясл.* Учапіцца. *Учапіўсь у валосьсі, што ледзьві рукі адшчапіў.* Прыпечына Касцюк. *Цёмна было, кыжан ляцеў ды ўчапіўсь за белую хустку.* Парадзіна Мсцісл. *Едзь ды глядзі, штоб ні ўчапіўся за пень.* Бардзіч Краснап,

УЧГУ́Р, -а, *м.* Канец, абрывак вяровачкі. *Венік рассыпайся, вазьмі ўчгур ды зьвяжы крепчы.* Тур'я Чэрык.

УЧО́РА, *прысл.* Учора. *Мы ўчора ўзмяшалі тую дзесяціну, заўтра будзем сеяць жыта.* Пірагова Мсцісл. *Учора я купаўся і паймаў у пячурі мянька.* Гібалы Касцюк.

УЧО́РЫШНІЙ, *прым.* Учарайшы, учорашні. *Учорышнію ноч у Мікіты пыкралі сала.* Добрае Мсцісл.

УЧУБУ́ЧЫЦЬ, *дзеясл.* Даць дрэннае за добрае, падсунуць, уперці нахалам. *Учубучылі мне нейкую дрэнь, а ні тывар.* Хвёдараўка Краснап.

УЧЫ́ЛІШЧА, -а, *н.* Школа. *Наш Хыма пайшоў запісвыцца ў учылішча, дык учыціль яго запісаў — Фома.* Бяседавічы Хоцім.

УЧЫ́НА, -ы, *ж.* Аўчына, скура з авечкі. *Нада ўчыны занесьць у вырабу.* Тур'я Чэрык. *Ці пыставіў ты бірку на ўчыны?* Хвёдараўка Краснап.

УЧЫ́НАК, -нка, *м.* Учынак. *Ета ж гвалтоўны ўчынак: прысьці і зыбраць біс спросу.* Азерцы Клім. *Плахі ўчынак — абругаць бацьку.* Слаўнае Мсцісл.

УЧЫ́НІТЫЙ, *прым.* Учынены. *Над ім быў учыніт прісіл, іначый ён ба ні атдаў сваіх грошы.* Бяседавічы Хоцім.

УЧЫРА́ШНІЙ, *прым.* Учорашні. *На 'бед мала сяньні зваріла: махотку кардохыль ды ўчырашнію капусту пыдагрела.* Арцёмаўка Міласл.

УЧЫ́ЦІЛЬ, -я, *м.* Настаўнік. *Учыціль пыглядзеў, як ён ныпісаў, ды скызаў перепісаць нанывa.* Бяседавічы Хоцім.

УШКЕ́НТЫ, *прысл.* Ушчэнт. *Разьбіў яго ўшкенты.* Хвёдараўка Краснап.

УШЧАПІ́ЦЬ, *дзеясл.* Навязаць, сілком надаць. *Ушчапілі мне сіклітарства ета — насіся цяпер зь ім.* Палуж Краснап.

УШЧУПУСІ́ЦЦА, *дзеясл.* Забегаць з шумам, усхадзіцца. *Дзеці нешта ўшчупусіліся, штоб заўтрі дождж ні быў.* Палуж Краснап.

УШЧЭ́РБА, -ы, *ж.* Страта. *А, у таком бытацьці нівялікыя ўшчэрба, калі адна карова і здохла.* Хвёдараўка Краснап.

УШШУКА́ЦЦА, *дзеясл.* Пільна, працягла шукаць. *Бабы ўшшукаліся дзіцёнка, а яго й сьлед прастыў.* Палуж Краснап.

УШШЭ́РСЬЦІЦЦА, *дзеясл.* Усшэрсціцца, ашчэрыцца. *Чаго ты ўшшэрсьціўся, ніхто цябе ні баіцца!* Хвёдараўка Краснап.

УШЫ́БСЬЦІ, *дзеясл.* Выцяць. *Так можна дзіцёнка ўшыбсьці.* Хвёдараўка Краснап.

УШЫВА́ЦЬ, *дзеясл.* Ушываць. *Нашто табе ўшываць гузікі ў кайнер, луччы ты прішый гаплікі.* Слаўнае Мсцісл.

УШЫ́РКІ, *прысл.* Ушыркі. *Маё пылатно ўшыркі трохі вузейшыя зы тваё.* Арцёмаўка Міласл. *Наш стол ушыркі адзін аршын, а ўдоўжкі — два.* Камароўка Крыч.

УШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Ушыць. *Нада бы гузік у паліто ўшыць, ды некылі — заўтрі ўшыю.* Дарагая Крыч. *Палага ўшыла ў кыбат гаплікі.* Дубеец Касцюк.

УШЭ́СЬЦЯ, -я, *н.* Ушэсце, рэлігійнае свята. *Ушэсьця ўсягды бываіць у чацьвер, на сёмый нядзелі пысьля вялікіньня.* Негін Касцюк.

УЮ́Н, -а, *м. заал.* Уюн, рыба. *Я многа ўюноў нылавіў у етый грязі; вон, знаць, адзін уюн яшчэ шаволіцца там.* Арцёмаўка Міласл.

# Ф

ФА́БРЫКА, -і, *ж.* Фабрыка. *Трапушнік зьбіраець трапкі і адпраўляець іх ны фабрыку.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ФАЙНА́, *прысл.* Добра, прыгожа. *Твой сьпінжак файна пашыт.* Капахоўка Клім.

ФА́ЙНЫЙ, *прым.* Добры, прыгожы. *Во файный замочык, і заклёпык ня відна.* Хвёдараўка Краснап.

ФАЛЬБО́НЫ, -аў, *мн. л.* Фальбоны. *Дзяўчына пашыла сабе з фальбонымі сукенку.* Машавая Бялынкав.

ФА́ЛЯ, -і, *ж.* Дама, назва карты. *Ета мыя трафовыя фаля, а ў цябе была бубновыя.* Горня Хоцім.

ФАНТНІ́НА, -ы, *ж.* Хусціна. *Дай мне якую фантніну накрыцца ад мух.* Куркаўшчына. Мсцісл.

ФА́НТЫ, -ыў, *мн. л.* Фанты, гульня. *Дывайця будзім гуляць у фанты.* Шарэйкі Касцюк.

ФА́РБА, -ы, *ж.* Фарба. *Навошта табе стольки фарбы, што ты будзіш фарбуваць?* Ушакі Чэрык.

ФАРБО́ТЫ, -ыў, *мн. л.* Вязаныя ручным спосабам карункі. *Я зьвізала фарботы к абрусу.* Буліна Касцюк. *Кохта з фарботамі.* Камароўка Крыч. *Дзяўчына візала фарботы.* Курманава Мсцісл.

ФАРБЫ́ВАЦЬ, *дзеясл.* Фарбаваць. *Думаю занесьць к сінельніку фарбываць спадніцу.* Ушакі Чэрык. *Хацела фарбываць пряжу, ды фарбы німа ў кыпірацыі.* Мсціслаў.

ФАРНАБІ́КС, -у, *м.* Праборка, пагроза. *Дай яму за ета фарнабіксу, штоб ён памітываў.* Сутокі Мсцісл. *Я табе калі дам фарнабіксу, дык ты й сваіх ні пызнаеш.* Куркаўшчына Мсцісл.

ФАСО́ЛЯ, -і, *ж. бат.* Фасоля. *Ны гародзе расьце фасоля і гарох.* Залессе Касцюк.

ФАЦЕ́РА, -ы, *ж.* Кватэра. *Завёз хлопчыка ў горыд вучыцца і пыставіў ны фацеру ды знакомых.* Парадзіна Мсцісл.

ФЕ́ДЗЯ, -і, *м.* Уласнае імя, памянш. ад Фёдар. *У Федзі ёсьць харощыя карцінкі.* Шарэйкі Касцюк.

ФЕ́ДЫР, -а, *м.* Уласнае імя Фёдар. *Змусьціцель ты, Фёдыр, майго хлыпца зьвёў, у дваре ня можыць і часу быць.* Канічы Касцюк.

ФЕ́КЛА, -ы, *ж.* Уласнае імя Фёкла. *Пёклу ў школі вучыціль завецъ Фёкла.* Міњькаўшчына Мсцісл.

ФІГУ́РА, -ы, *ж.* 1. Фігура, выверт бараною, які робяць на паласе, калі канчаюць баранаваць. *Дос ужо скырадзіць, дзелый фігуру і паедзім!* Хвёдараўка Краснап. 2. Фіга. *На табе фігуру за ета!* Брылёўка Краснап.

ФІЛЕ́НКА, -і, *ж.* Філёнка, палавінка дзвярэй. *У дзьверы адна філёнка гатова, цяпер другую буду дзелыць.* Журбін Бялынкав.

ФІЛЕ́НЧЫСТЫП, *прым.* Філёнчасты, зроблены з філёнак, на дзве палавіны. *У хаці ў яго філёнчыстыя дзьверы — сам масьцір, ды дзіва што зьдзелыў.* Хвёдараўка Краснап.

ФІЛЕПІЦА, -ы, *ж.* Мокры снег з ветрам. *Ны дваре тыкая філепіца, што проста вочы заліпляя.* Барысавічы Клім.

ФІРА́НКА, -і, *ж.* Фіранка. *Прыбрала хату, мост вымыла, чыстыя фіранкі павесіла.* Пірагова Мсцісл. *Фіранкі ўжо гразныя на вокнах, нада іх памыць.* Барысавічы Клім.

ФЛЯ́ЧКІ, -ыў, *мн. л.* Піражкі, начыненыя фаршам з кішак. *Я дужа люблю флячкі; ды кішок німа, німа з чаго зрабіць.* Залессе Касцюк.

ФО́ЛЬВАРК, -а, *м.* Фальварак, невялікі маёнтак. *У фольварку новы рындатыр.* Нашкавічы Мсцісл.

ФО́РМА, -ы, *ж.* Форма. *Надзівай лапці на сугакі, каб мелі харошую форму.* Слаўнае Мсцісл.

ФРАНТ, -а, *м.* Франт, зухаваты хлапец. *Янка, як адзеўся, дык проста франт.* Палуж Краснап.

ФРАНТО́Н, -а, *м.* Франтон. *Будзім пуню рубіць у лімягі з франтоным.* Брылёўка Краснап.

ФРЭНЧ, -а, *м.* Фрэнч, пінжак адмысловага крою. *Хлопіц жаніцца задумаў — пашыў сабе файны фрэнч.* Дарагая Крыч.

ФУГА́НІЦЬ, *дзеясл.* Габляваць фуганкам. *Што ён там фуганя?* Хвёдараўка Краснап. *Дошкі на дзьверы нада фуганіць.* Канахоўка Клім.

ФУГАНЫ́К, -нка, *м.* Фуганак, вялікі гэбаль. *Пыдай сюды фуганык, нада дошкі пафуганіць.* Хвёдараўка Краснап.

ФУ́КНУЦЬ, *дзеясл.* Фукнуць, дзьмухнуць. *Пылажы ны далонь ету пушынку, фукні, дык іна і пыляціць.* Ушакі Чэрык.

ФУКУЛЬЦЯ́ПІСТА, *прысл.* Спрытна. *Фукульцяпіста ета ў яго вышла.* Хвёдараўка Краснап.

ФУКУЛЬЦЯ́ПІСТЫП, *прым.* Здольны, спрытны. *Ён хлопіц дужа фукульцяпісты.* Вербеж Чэрык. *Ат! Ён нейкій ні фукульцяпістый, нічога ня ўмея.* Хвёдараўка Краснап.

ФУ́РМАН, -а, *м.* Фурман. *Нынялі сабе фурмына ехыць ны станцыю.* Сохана Мсцісл.

ФУ́РТАВІНА, -ы, *ж.* [Мяцеліца], пурга, завея, бура. *Ны дваре нейкыя фуртавіна ўзьнілася, проста носа высунуць нільзя.* Палуж Краснап.

ФУФА́ЙКА, -і, *ж.* Вязаная цёплая кашуля. *Надзень фуфайку, цяплей будзець.* Клімавічы.

ФЫ́БРА, -ы, *ж.* Малярыя. *У мяне, верна, фыбра — нешта то холадна, то жарка робіцца.* Мсціслаў.

ФЭ, *выкл.* Фэ. *Фэ! Тухліць падлаю.* Старае Сяло Мсцісл.

# Х

ХА-ХА, *выкл.* Ха-ха. *Табе ўсё ха-ха ды хі-хі-хі, больш ты нічога ні знаіш, угамону табе німа!* Арцёмаўка Міласл.

ХАБЕ́Л, хабла́, *м.* Хам, хамула. *Паны кызалі: мужык — хабёл, ці быгата ён чаго ведыя, а еты хабёл усё зыбраў.* Тур'я Краснап.

ХАБО́ЦЬЦЯ, -я, *н. зборн.* 1. Пазаддзе, горшыя зярняты, што кладуцца па-за мякінай, ззаду лепшых. *Дай конім ета хабоцьця, ніхай зьядуць.* Кокатава Мсцісл. 2. Лахманы. *Абырваўся, абшырпаўся так, што ні адзежа на ім, а 'дно хабоцьця.* Арцёмаўка Міласл.

ХАБЫР, -у, *м.* Хабар. *Нада яго пыпрасіць і хабыру даць, дык ён удобрыцца і зьдзелыіць.* Арцёмаўка Міласл.

ХАВАЦЦА, *дзеясл.* Хавацца. *Дзізірціры хаваюцца па лесі.* Маркаўка Хоцім. *Дос табе хавацца, усі роўна бачу, што ты дома.* Ушакі Чэрык.

ХАДАЛЫ́, -оў, *мн. л.* Ногі. *Я свае хадалы ўжо прыхадзіла.* Канава I Хоцім.

ХА́ДЗІЦЬ, *дзеясл.* 1. Хадзіць. *Хадзіўхадзіў у лесі і зублудзіў неяк.* Парадзіна Мсцісл. *Сяньні мы хадзілі ў лес.* Гібалы Касцюк. 2. Пасвіцца, есці траву. *Коні ходзяць па лузе.* Іванаўка Хоцім. *На вазярышчы ходзяць коні.* Ляхі Чэрык. 3. Рабіць заход пры гульні ў карты. *Хадзі ў казыра ўперід.* Парадзіна Мсцісл.

ХАДЗІ́ЦЬ З КАСО́Й. Касіць. *Такую пішч еўшы, няўздоліїш с касой хадзіць.* Палуж Краснап.

ХАДЗЯ́КА, -і, *ж.* Хадзяка. *І адкуль ідзець гэсты хадзяка? Хай бы атпачыў у нас трохі.* Ушакі Чэрык.

ХАДО́РА, -ы, *ж.* Уласнае імя Фядора, Тадора. *Хадора Міхасёва прынесла сяньні поўны кош грыбоў.* Канахоўка Клім.

ХАДО́РКА, -і, *ж.* Памяншч. ад Хадора. *Хадорка сыма ета зрабіла, а зьвярнула ны брата.* Палуж Краснап.

ХАДО́СКА, -і, *ж.* Уласнае імя Фядосся. *Хадоска вышыла сабе ны сароцццы палікі.* Гібалы Касцюк.

ХАДО́СЬСЯ, -і, *ж.* Уласнае імя Фядосся. *Хадосься хочыць вучыцца, а матка ні пускаіць.* Гусарка Клім.

ХАДЫ́ЛЬ, -я, *м.* Палка, на якую абапіраюцца бязногія або старыя людзі. *Янку*

*ж балелі ногі, што ён хадзіў ны хадылях.* Хоцімск.

ХАЗЯЙКА, -і, *ж.* Гаспадыня. *Мыя хазяйка пасадзіла курыцу ны яйцы.* Пірагова Мсцісл.

ХАЙ, *часц.* Хай, няхай. *Наліла дзецям клёцак ды мылаком зыбяліла — хай ядуць.* Парадзіна Мсцісл. *Пірывярні ты відро дыгары ныгамі — хай сохніць.* Ушакі Чэрык. *Ну хай бы ты троху раней прышоў — якрас бы ўсіх зыстаў тут.* Забалоцце Расиян.

ХАЙЛО, -а, *н.* 1. Непарадак, беспарадак. *У мяне тут такоя хайло, што ні паймеш, дзе што ляжыць.* Серчыцы Краснап. [2. Глотка].

ХАІЦЬ, *дзеясл.* Хаяць. *На што ты мяне хаіш?* Палуж Краснап. *Ні хай мае работы, а калі табе ні ныравіцца, дык сам луччы зьдзелый.* Пархвенава Мсцісл.

ХАЛАДЗЕЦ, -дца, *м.* Студзяніна, халадзец. *Мама зварыла халадзец з цілячых ног.* Віхраны Мсцісл.

ХАЛІМОН, -а, *м.* 1. Уласнае імя Філімон. *Халімон прыдаў свайго кыня.* Камароўка Крыч. 2. Карагод. *Дывайця, дзеўкі, будзем гуляць у Халімона.* Хвёдараўка Краснап.

ХАЛІПА, -ы, *ж.* Халепа, хлюпа, снег з дажджом. *Целый дзень тыкая халіпа, што й носа ня высунуць: веціp, дождж і сьнег — проста біда.* Мануйлы Краснап.

ХАЛОДНА, *прысл.* Холадна. *Нада ўстаўляць дубальтовыя вокны, халодна ўжо.* Валымар Расиян. *Надзень сподкі, ато рукам халодна будзя.* Баеўка Крыч. *Нешта халодна стала, нада кажух надзіваць.* Прыпечына Касцюк.

ХАЛОДНЫЙ, *прым.* Халодны. *Квас такі халодны, дзе ён у вас стаіць, на погрыбі ці што?* Машавая Бялынкав. *Сяньні ноч была дужа халодныя, ядраныя.* Пірагова Мсцісл.

ХАЛОННА, *прысл.* Холадна. *Злазі-ка на вышкі пыглядзі, ці ні нада там моху прібавіць ці пяску, ато халонна будзіць узімку ў хаці.* Арцёмаўка Міласл.

ХАЛОННЫЙ, *прым.* Халодны. *Кажух мой усім халонны, вынасіўся ўжо, ня грэіць.* Машавая Бялынкав.

ХАЛУЙ, -я, *м.* Лёкай, прыслужнік, падліза. *Вялікыя шышка — халуём быў у афіцэра ці што.* Палуж Краснап.

ХАЛУПА, -ы, *ж.* Халупа, хата, хаціна. *Халупа бедныга Мыкара ўрысла ў зямлю.* Лешчынка Мсцісл. *Жывець у нейкай халупі.* Маластоўка Краснап.

ХАЛЭМУС, -а, *м.* Непарадак, беспарадак. *У яе ў хаце цэлый халэмус: міскі пыд лаўкый, а гаршчок на кырваці, ні дай бог.* Гусарка Клім.

ХАЛЯВА, -ы, *ж.* Халява. *Зрабіў ты мне халявы, што хоць з гылавою лезь у іх.* Тур'я Чэрык.

ХАМУТ, -а, *м.* Хамут. *Хамут новы нада купляць — увесь пырвайся, што й запреч кыня не ўва шта.* Бязводзічы Мсцісл. *Атсупонь ты хамут, нада гужы пыдцягнуць, ато слаба дзержаць.* Журбін Бялынкав. *Кряпчэй сьцісні клешчы, ато хамут парвеш.* Бяседавічы Хоцім.

ХАНДОГА, -і, *ж.* Чысцёха. *Во ўжу хандога, як пычанець чысьціцца ды мыцца, дык пыўгадзіны прайдзець.* Арцёмаўка Міласл.

ХАНДЫБА, -ы, *ж.* Чалавек, што памалу ходзіць. *Вот пышла хандыба, пакуль дайдзець, дык вечыр будзя.* Гусарка Клім.

ХАПАЦЬ, *дзеясл.* Хапаць. *На той клін у міне сімяной ні хапіць.* Арцёмаўка Міласл. *Дос табе шчыпаць лучыну — хапіць ужо.* Ушакі Чэрык. *Мы пычалі атбівацца ад іх, ды не хапіла сілы.* Пірагова Мсцісл.

ХАПУГА, -і, *м.* Хапуга, хабарнік. *Нічога ня зробіш, трэба заткнуць зубы хапугу етыму.* Палуж Краснап.

ХАПУН, -а, *м.* Хабарнік, хапуга. *Быў прыстаў у нас — ну й хапун быў: бывала, пасьледній выцігніць.* Маластоўка Краснап.

ХАПУНОК, -нка, *м.* Кароценькі пінжачок. *Хапунок уськінуў на плечы і пабег.* Хвёдараўка Краснап.

ХАПЫЦЬ, *дзеясл.* Хапаць, лавіць. *Бідняга хапыў паветра ротым — і ўсё яго тут.* Палуж Краснап.

ХАРАСТВО, -а, *ж.* Хараство, прыгажосць. *Якоя ж хараство было тут: лес, рэчка, а січас і рэчка зьмянілась, як лес высяклі.* Ушакі Чэрык.

ХАРКАВІНЬНЯ, -я, *н.* Жабіна ікра. *Поўны луг лягушыныга харкавіньня.* Юр'евічы Калінінішчына.

ХАРОШЫЙ, *прым.* Добры. *У нас цяпер харошы вучыціль.* Арцёмаўка Міласл. *Жонка яго — харошыя баба, дагледлівыя.* Журбін Бялынкав. *Ен зямец харошый: пчол у яго быгата.* Касцюковічы. *Харошыя трыва сёліта зырадзіла.* Бяседавічы Хоцім. *Ны лядых сёліта жыта харошыя.* Пірагова Мсцісл. *Усім ты харош, толькі сядзелка ў цябе там, айдзе ў людзей гылыва.* Горкі Краснап.

ХАРЧЫ, -оў, *мн. л.* Харч. *Прабыў бы я там і болі, ды харчоў ні хапіла, а ны пайку іхнюю там ні пражывеш.* Хоцімск. *Мы цяпер ялывічыну ядзім — з ялывічынаю нічога харчы.* Арцёмаўка Міласл.

ХАТА, -ы, *ж.* Хата. *Наша хата прыстарней зы вашу.* Машавая Бялынкав. *Хата рубіцца ў трынаццыць вянцоў.* Вародзькава Крыч. *Мы ўжо перайшлі ў новую хату.* Добрае Мсцісл. *Лі нашый хаты перад вокнымі палісаднік адгарожаный.* Шумячы.

ХАТОМКА, -ы, *ж.* Катомка, кайстра. *Была ў яго маленькая хатомка — паложыць хлеба й да хлеба, уськінець на плечы ды пашоў.* Ушакі Чэрык. *Узяў хатомку за плечы і пайшоў з двыра.* Тур'я Краснап.

ХАТЫЛЬ, -я, *м.* 1. Плецены з бяросты кошык для хлеба. *Кладзі сала ў хатыль, бо з адным хлебым прыстаніш.* Хвёдараўка Краснап. *Паўлюк насушыў сабе ў дарогу хатыль сухароў.* Гібалы Касцюк. 2. Катомка, кайстра. *Ты хатыль свой растрос.* Кокатава Мсцісл. *Старіц чуць дзьвінуўся, сагнуўся, саўсім ні па сілі быў хатыль зы плічамі.* Слаўнае Мсцісл.

ХАТЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад хата. *Лі ракі стаіць нейкыя хатычка на бугры, ці тут хто жывець, ці не?* Гарбавічы Касцюк.

ХАУБОСЬЦЯ, -я, *н. зборн.* Лахманы.

*Быгата ў цябе хайбосьця, выкінь яго вон.* Палуж Краснап.

ХАУСЬЦЕ, -я, *н. зборн.* Хусты, розныя тканыя рэчы (не сукно). *Хыўсьця ў цябе быгата, ды хаўсьцё харошыя, тонкыя.* Хвёдараўка Краснап.

ХАЎТУРНЫЙ, *прым.* Хаўтурны, жалобны. *Некыга хываюць — чуїш: хаўтурны звон даносіцца.* Слаўнае Мсцісл.

ХАЎТУРЫ, -раў, *мн. л.* Хаўтуры, пахаванне і жалобная вячэра па нябожчыку. *У яго сёньні хаўтуры: цешча памерла.* Іванаўка Хоцім. *Пайдзём ны хаўтуры.* Касцюковічы. *У Цімоха сёньня хаўтуры пы бацьку.* Крычаў. *У гэтай хаце, відаць, хаўтуры, бачыш, пратэсы пыстаўлены.* Расна.

ХАЎШЧОВІКІ, -ыў, *мн. л.* Штаны з даматканага палатна. *Хаўшчовікі ны каленях пырваліcь.* Восаў Краснап.

ХАХЛУШКА, -і, *ж.* 1. Украінка. *Хахлушка іна, з Украіны пріехыла ды жывець у нас.* Касцюковічы Хоцім. 2. Чубатая курыца, хахлатка. *Хахлушка зьнісласъ — кудахтыіць.* Гарбавічы Касцюк.

ХАХОЛ, хахла, *м.* 1. Хахол, чуб. *Пыймаіш у яблыках, дык адзьдзяры хырашэнька зы хахол, за вушы, штоб знаў другей раз.* Арцёмаўка Міласл. 2. Украінец. *Хахол тут быў, січас паехыў на Украіну, дык вот фацэтный чылавек.* Васілёўка Хоцім.

ХАХОЛЬЛЯ, -я, *н. зборн.* Валасы. *Антось Юзьку зы хахольля ды й вон із хаты.* Малюшын Краснап. *Янка вырваў клок хахольля.* Чыгрынаўка Расняп.

ХАЦЕЦЦА, *дзеясл.* Хацецца, мець жаданне. *Дужа хацелась мне яе пубачыць, ды ні дывялося.* Дзіснакіта Мсцісл.

ХАЦЕЦЬ, *дзеясл.* Хацець. *Хацеў я паехаць сёньня ў горыд, ды, відна, ні прыдзецца.* Бяседавічы Хоцім. *Прышоў на сходку, хацеў паслухаць, што разумныя людзі кажуць, а сходка тая ні адбылася.* Новы Дзедзін Міласл. *Брат тыкі намогся схадзіць у бальніцу, а ні хацеў.* Маластоўка Краснап. *Я есьці хачу — улі чаго-небудзь.* Ушакі Чэрык.

ХАЦІМЫЙ, *прым.* Прагны. *Хацімыя душа твыя, усяго табе мала.* Хвёдараўка Краснап.

ХАЦЬКАЛЬ, -я, *м.* Пэцкаль. *Хацькаль ты, пылядзі ны сябе, як ты задзелыўся ўвесь!* Хвёдараўка Краснап.

ХАЦЯ, *прысл.* Хаця. *Мяне нудзіць, хаця каб ня вырвыла.* Машавая Бялынкав.

ХВАБРЫКА, -і, *ж.* Фабрыка. *У Клімавіч будуецца новая хвабрыка.* Самацевічы Касцюк. *Наш Міхалка працуе ны хвабрыцы.* Васілеўка Хоцім.

ХВАБРЫЦЦА, *дзеясл.* Ганарыцца. *Дужа ні хвабрыся — усе ведыюць, хто ты і што ты!* Палуж Краснап. *Ён вельмі ўжо хвабрыцца.* Васілёўка Хоцім.

ХВАЛА, -ы, *ж.* Хвала. *Хвала табе, божа, што я аттуля ўцёк жывы.* Вародзькава Крыч.

ХВАЛІЦЦА, *дзеясл.* Хваліцца. *Нечыга загыдзя хваліцца, пахваліська тады, як зробіш.* Дубеец Касцюк.

ХВАЛЬБА, -ы, *ж.* Халепа, мокры снег. *Ны дварэ пыднілася бура й хвальба.* Маластоўка Краснап.

ХВАЛЬБА, -ы, *ж.* Пахвальба. *Усе людзі ведыюць тваю хвальбу.* Палуж Краснап.

ХВАЛЬБОНЬНІЦА, -ы. *ж.* Спадніца з хвальбонамі. *Матка выніла з сундука хвальбоньніцу.* Арцёмаўка Міласл. *Надзела хвальбоньніцу і пышла на ігрышча.* Журбін Бялынкав.

ХВАЛЬБОНЫ, -ыў, *мн. л.* Фальбоны. *Ны спадніцу нашыла ў тры рады хвальбоныў.* Старае Сяло Мсцісл. *Мае хвальбоны ў спадніцы расшыліся.* Азерцы Клім.

ХВАЛЬЧУВАЦЦА, *дзеясл.* Скардзіцца, жаліцца на якую-небудзь хваробу. *Нешта ты ўсё жыватом хвальчуесься.* Гібалы Касцюк.

ХВАЛЬЧЫВЫЙ, *прым.* Фальшывы, што мае скрыты недахоп. *Ні глядзі, што етый конь відный, а ён хвальчывый.* Маластоўка Краснап.

ХВАЛЬШЫВЫЙ, *прым.* Фальшывы, несправядлівы, са скрытым недахопам. *Такі хвальшывый чылавек, што з ім лепі і дзела ня мець!* Парадзіна Мсцісл. *Ета рубель хвальшывый, яго ніхто ні возьмець.* Хвёдараўка Краснап.

ХВАМІЛІЯ, -і, *ж.* Прозвішча. *Якая прыгожая хвамілія — Парэчны.* Васілеўка Хоцім.

ХВАНДА, -ы, *ж.* Фалда, складка ў адзежы. *Бягіць, аж хванды трасуцца.* Хвёдараўка Краснап.

ХВАНТЫ, -аў, *мн. л.* Фанты, гульня. *Дывайця, дзеўкі, будзім гуляць у хванты. Хванты — вясёлая гульня.* Шарэйкі Касцюк.

ХВАНЭЛЬКА, -і, *ж.* Фланелька, лёгкае сукно. *Добрыя хванэлька выйшла.* Хвёдараўка Краснап.

ХВАРБА, -ы, *ж.* Фарба. *Ці хварба ў вас ёсьць?* Забалоцце Расняп. *Купіла хварбы, буду хварбуваць пряжу.* Дарагая Крыч.

ХВАРБОТКІ, -аў, *мн. л.* Памянш. ад хварботы. *Прышыла к краям набожніка хварботкі і павесіла.* Юркаўка Крыч. *Мышка ны палічкі хварботкі ткець.* Лапаціна Мсцісл.

ХВАРБОТЫ, -аў, *мн. л.* Вязаныя ручным спосабам карункі. *Ці ты купляла хварботы, ці сыма рабіла?* Залесавічы Крыч. *Прышый ты к рушніку хварботы, красівей будзець.* Лапаціна Мсцісл. *Дзяўчына робіць з куплёных нітак хварботы.* Шумячы.

ХВАРБУВАЦЬ, *дзеясл.* Фарбаваць. *Сяньні будзім хварбуваць пряжу.* Вітрупь Касцюк.

ХВАРЕЦЬ, *дзеясл.* Хварэць. *Людзі ціфым пачынаюць хварець.* Лапаціна Мсцісл. *Кузьма як зыхвареў улетку, дык і цяпер хвареіць.* Канічы Касцюк. *Па ўсёй дзярeўні дзеці хвареюць жывытамі.* Арцёмаўка Міласл.

ХВАРОБА, -ы, *ж.* Хвароба. *Вось хвароба нейкыя зьявілыся, дзеці пыхварэлі.* Вярбоўка Расняп. *Хвароба зломіць хоць якога здаровага.* Рэкта Калініншчына. *У мяне хвароба няўшчухала за етый дзень.* Паўлавічы Клім. *Я ўжо троху акрыяў ат*

*хваробы — сам хаджу, ато і ўстаць ня мог.* Слаўнае Мсцісл.

ХВАРСІЦЬ, *дзеясл.* Фарсіць. *Ні хварсі ты дужа, німа чым.* Палуж Краснап. *Ён хварсіць, што ў яго новыя сыпагі, дык сядзіць, зылажыўшы нагу ны нагу, штоб усі вiдзілі сыпагі, ды яшчэ наском варочыіць.* Арцёмаўка Міласл. *Дос табе хварсіць.* Юркаўка Крыч.

ХВАРТОН, -а, *м.* Франтон. *У етый хаці хвартон зашыт красіва.* Бяседавічы Хоцім. *Сяньні будзім зашываць хвартон у хаці.* Хвёдараўка Краснап.

ХВАРТУК, -а, *м.* 1. Фартух. *У Домны паркалёвы хвартук.* Машавая Бялынкав. *Я сабе пашыла сіній хвартук.* Гусарка Клім. *Дзяўчына маець красівый хвартук.* Шумячы. 2. Пярэдняя частка стрэхі. *Хвартук накрый свежыю саломаю.* Пухнава Раснян.

ХВАРТУХ, -а, *м.* Фартух. *Дай мне чыстый хвартух, бо гэтый надта забрудзіўся.* Пірагова Мсцісл. *Дзяўчына пацірала хвартух.* Касцюковічы. *Я к хвартуху думаю прышыць во етую карунку.* Пожары Краснап.

ХВАРЫЙ, *прым.* Хворы. *Хварый пычаў атхінаць нызад гылаву, мабыць, паміраць будзіць.* Арцёмаўка Міласл.

ХВАРЭЦЬ, *дзеясл.* Хварэць. *Падвор'я маё ніважныя: і коні, і каровы нешта хварэюць.* Самацевічы Касцюк. *Ён з вясны хварэў, думалі, памрэць, алі-ткі адужаў.* Асмолавічы Мсцісл.

ХВАСТ, -а, *м.* Ілгун, хлус. *Якей ты хваст, каб жа ні ведылі, што ты маіш, ато ўсі ведыюць, а ты меліш языком.* Хвёдараўка Краснап.

ХВАСТЫЦЬ, *дзеясл.* Хваліцца. *Ня хвастый ты многа.* Крычаў.

ХВАТА -ы, *ж.* Фата, вэлюм. *Нявесьці надзелі хвату.* Хвёдараўка Краснап.

ХВАТАРАНТ, -а, *м.* Кватарант. *Ета наш новы хватарант — ён тут будзіць настаўнікам.* Пірагова Мсцісл.

ХВАЦЕРА, -ы, *ж.* Кватэра. *У яго ня свой дом у горыдзі, а хвацера: плоціць пяць рублёў у месіц.* Арцёмаўка Міласл. *Ён шукаў хвацеры, ні ведыю, ці знайшоў.* Хоцімск.

ХВАЦІРАНТ, -а, *м.* Кватарант. *Хвацірант быў у нас, дык ета яго вешчы.* Васілеўка Хоцім.

ХВАЦІЦЬ, *дзеясл.* 1. Схапіць. *Хваціў шыбень на вуліцы, ды як кініць у сыбаку, добря, што ні пупаў, ато б акалечыў.* Слаўнае Мсцісл. 2. Раптам узяць, рвануць. *Кабыла ўпудзілась, дык як хваціла кумільгым — я чуць ны калёсых задзіржаўся.* Мсціслаў.

ХВАЦЬ, *выкл.* Хоп. *Толькі іна хацела зывізаць хвустку, дык матка кумільгым сыскачыла з печы, хваць за хвустку! Вырвыла з рук ды схувала.* Арцёмаўка Міласл.

ХВЕДЗЬКА, -а, *м.* Уласнае імя Фёдар. *Хведзька ўлез у сад і назьбіраў падылікаў.* Кокатава Мсцісл.

ХВЕДЫР, -а, *м.* Уласнае імя Фёдар. *Хведыр двухтрысьценны дом хочыць строіць.* Маляцічы Крыч. *Зося вышла замуж за Хведыра.* Ушакі Чэрык.

ХВЕКЛА, -ы, *ж.* Уласнае імя Фёкла. *Хвёкла пышла ўзамуж за мыластоўскыга Халімона.* Палуж Краснап.

ХВЕРЧАЛ, -а, *м.* Фельчар. *Нада пайсьці к хверчалу, нешта жывот баліць, мо дасьць якога зельля.* Палуж Краснап. *У хверчыла была, у хлыпца ныга баліць, дык думыла, мо паможыць.* Цівецкая Красцап.

ХВЕРШЫЛ, -а, *м.* Фельчар. *Калісь-та быў у нашый вёсцы хвершыл.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Німа дохтыра, дык хоць хвершыла прывязі.* Парадзіна Мсцісл.

ХВІЛЬВАРІК, -а, *м.* Фальварак, невялікі маёнтак. *Хвільварік етый дужа даходный: хызяін яго вядзець гаспыдарьку культурна.* Мануйлы Краснап.

ХВІРАНКА, -і, *ж.* Фіранка на вокнах. *Зоська, зысмаргні хвіранку.* Крычаў.

ХВОЙНЫЙ, *прым.* Хваёвы. *Наўкол нашый дзяреўні расьцець хвойны лес.* Лешчынка Мсцісл.

ХВОКУСЬНІК, -а, *м.* Фокуснік, штукар. *Во хвокусьнік, якія штукі адпаліваіць!* Добрае Мсцісл.

ХВОЛЬВАРК, -а, *м.* Фальварак, невялікі маёнтак. *Етый хвольварк ён перадаў па духоўнай сваёй пляменьніцы.* Пірагова Мсцісл. *Іменьне ня іменьне, а хвольварк ладны быў.* Парадзіна Мсцісл.

ХВОРТКА, -і, *ж.* Фортка. *Хвортка зачыніна, а сьвіньні вылізьлі — кудою яны?* Пухнава Раснян. *Зачыняйце шчыльна хвортку, штоб сыбака на вуліцу ня выскачыў.* Крычаў. *Зачыні зы сабою хвортку, каб сьвіньні ні вылізьлі з двыра.* Канава Крыч. *Кыля варот зроблена хвортка.* Шумячы.

ХВОРЫЙ, *прым.* Хворы, нездаровы. *Хворый усю ноч трызьніў.* Дубеец Касцюк. *Алеся ляжыць хворыя.* Хоцімск. *Чаго йта ты такі абдулуватый стаў, ці ні хворый ты?* Дзіснакіта Мсцісл. *Мабыць, хвор мой Васіль, што так доўга ня прыходзіць.* Лешчынка Мсцісл.

ХВОРЫСТ, -у, *м.* Хворост. *Дзеці пыдпалілі кучу хворысту.* Гібалы Касцюк. *Нывазіў сабе з лесу хворысту на дровы.* Сохана Мсцісл.

ХВОСТ, -а, *м.* Хвост. *Нашыму сыбацы хто-та хвост атсек.* Гібалы Касцюк. *Дрэнь сыбака: стоіць толькі яго каму прылашчыць, дык і хвыстом зьвіляіць.* Ушакі Чэрык.

ХВОСЬЦІК, -а, *м.* Памянш. ад хвост. *У пырысят хвосьцікі пызакручыны ў калечкі.* Машавая Бялынкав.

ХВОЯ, -і, *ж.* Хвоя, хвойныя іголкі. *У лесі хвоя ўсьцілаіць усю зямлю, і там ні травінкі німа.* Слаўнае Мсцісл.

ХВУРМАНКА, -і, *ж.* Фурманка, падвода. *Цягнулыся нейкыя хвурманка, соль з горыда у лаўку візла.* Арцёмаўка Міласл.

ХВУСТКА, -і, *ж.* Хустка. *У Куліны новыя хвустка.* Машавая Бялынкав. *Сын прівёз мне гасьцініц: хвустку харошую.* Арцёмаўка Міласл.

ХВЫЛА, -ы, *ж.* Хвала, слава. *За добрыя дзялы хвыла табе, Іван!* Канічы Касцюк.

ХВЫНАБЭРЫЦЦА, *дзеясл.* Фанабэрыцца. *О, яна цяперь хвынабэрыцца, а як зімой есьць нечыга будзець, дык і з хаты ня выцігніш.* Бяседавічы Хоцім. *Нечыга табе хвынабэрыцца.* Вярбоўка Раснян.

ХВЫНАБЭ́РЫЯ, -і, *ж.* Фанабэрыя. *Хвынабэрыю сваю пыказвая — хто-то я!* Дзягавічы Крыч.

ХВЫНАРЬ, -я, *м.* Фанар, ліхтар. *Зысьвяці хвынарь і сходзі ў погріб, прінясі квасу.* Тур'я Чэрык.

ХВЫНТАН, -а, *м.* Фантан. *У пана ны дваре быў хвынтан, а січас у ім вады ўжо нет.* Ушакі Чэрык.

ХВЫРАВІ́ТЫЙ, *прым.* Хваравіты. *Хвёдар — хвыравіты чылавек, яму ўсё шкодзіць.* Сохана Мсцісл.

ХВЫРАВІ́ТЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Хваравітасць. *Ныпала ны майго Сашку нейкыя хвыравітысьць, то тое, то сёя — усё ніздароў!* Добрае Мсцісл.

ХВЫРАСЬЦІ́НА, -ы, *ж.* Хварасціна. *Зы балыўства яго бацькі часта сьцёбыюць хвырасьцінаю.* Сохана Мсцісл. *Выцігнуў з-пад стога хвырасьціну і дывай яго хвыстаць.* Тур'я Чэрык.

ХВЫСТА́ЦЬ, *дзеясл.* Хвастаць, біць. *Узяў пугаўё ў руку і дывай хвыстаць кабылу.* Ушакі Чэрык.

ХВЯДО́С, -а, *м.* Уласнае імя Фядос. *Ну, Хвядос і атпаліў штуку!* Добрае Мсцісл.

ХЕ́ЛЬКА, -і, *ж.* Бульба. *Мылая сёліта хелька ўрадзілыся, пакуль на бліны ныскрабеш, дык і абедыць пыра.* Барысавічы Хоцім.

ХІ-ХІ, *выкл.* Хі-хі-хі. *І што ета за дзеўкі, нет штоб яны пысьпівалі якея песьні, а целый вечыр толькі й чуіш, што хі-хі-хі! А, штоб вы згарэлі з сваім сьмехым!* Арцёмаўка Міласл.

ХІ́БА, *прысл.* Хіба, ці. *Хіба вы ня ведаеце, дзе я быў, што пытаеце?* Дзягавічы Крыч. *Хіба ён сёньня прыдзе?* Беразяк Краснап. *Ну хіба ж ты ні ведаў, што твой бацька ўжо памёр?* Ушакі Чэрык.

ХІЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Нахіляць, нагінаць. *Вецір хіліў древы аж ды зямлі.* Слаўнае Мсцісл.

ХІМ, -а, *м.* Чолка, касмык грывы над лапаткамі ў каня. *Хлопчык едзі ны кані ды дзяржыцца за хім.* Хвёдараўка Краснап.

ХІНЕ́СЬ, *выкл.* Боўць. *А ён хінесь ды дзяўчыны!* Краснаполле.

ХІ́РА, -ы, *ж.* Слабая, нездаровая. *Ня ведыю, чаго ты стала тыкая хіра, верна, ніздарова была.* Канічы Касцюк.

ХІСТАНЬНЯ, -я, *н.* Хістанне. *Ні ныравіцца мне яго хістаньня — тыкая нірышыцільнысьць; я люблю цьвёрдасьць у хыракціpі, уверіннысьць.* Слаўнае Мсцісл.

ХІСТАЦЦА, *дзеясл.* Хістацца, вагацца. *Пысьля балезьні на ныгах ні ўстоіць — хістаіцца, што пьяный.* Дзягавічы Крыч.

ХІ́СТКІЙ, *прым.* Хісткі, няўстойлівы. *Хісткій у яго нораў — свайго розуму ні маіць, а хто што скажыць, то і ён паўтаряіць.* Дзянісавічы Навазыбк. *Хісткія тваe мыжары — як едзіш, то ва ўсі стораны хістаюцца.* Клясін Краснап.

ХІ́СТЫНЬНЯ, -я, *н.* Хістанне, ваганне. *Хістыньня ў думкых у яго: ні знаіць, ды каго прістаць.* Бохапы Росл.

ХІ́СЬЦЬ, -і, *ж.* Прыхільнасць. *Хісьць мае, а ні хінісь ды яго.* Краснаполле. *Нікудышный чылавек: у яго ні к чаму ніякія хісьці німа.* Гібалы Касцюк.

ХІ́ТРА, *прысл.* Хітра. *Глядзі ты, як тут хітра ўсё зробліна.* Дзягавічы Крыч.

ХІ́ТРЫЙ, *прым.* Хітры. *Ты дужа хітры, але й ён ня дурынь — спызнаў цябе.* Нізькі Касцюк. *Куліна, на-знаеш-на, якая хітрыя баба!* Палуж Краснап.

ХІТРЫВА́НЬНЯ, -я, *н.* Хітраванне, мудрагельства. *Біз хітрываньня етый чылавек ня можыць.* Сохана Мсцісл.

ХІ́ТРЫКІ, -аў, *мн. л.* Хітрыкі, хітрасць. *Нічога ня выйшла з яго хітрыкаў, толькі абстраміўсь.* Палуж Краснап.

ХІ́ТРЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Хітрасць. *Ён дзе сілаю, а дзе хітрысьцю, а ўсё-ткі свайго даб'ецца.* Арцёмаўка Міласл.

ХЛАБАЗІ́НА, -ы, *ж.* Хварасціна, дубец. *Вазьмі хлабазіну ды атсьцігай яго хырашэнька.* Васілеўка Хоцім. *Абджыгыла мяне матка хлабазінаю ды выгныла з хаты.* Пірагова Мсцісл.

ХЛАГ, -а, *м.* Флаг, сцяг. *Мы к Первыму маю вышылі новый хлаг бальшымі белымі буквамі; зьдзелылі палку красівую і кутасы прічапілі — надта хораша вышла.* Арцёмаўка Міласл.

ХЛАПЕ́Ц, -пца, *м.* Хлапец. *Ныпалі ны яго ўтраіх, а хлапец ні 'брабеў і дувай іх тылыскаць.* Маластоўка Краснап. *Спыні ты хлыпца, ато ён дужа разышоўсь.* Дзіснакіта Мсцісл.

ХЛАПЕ́ЦКІЙ, *прым.* Хлапецкі. *Надзела хлапецкі кыхтан ды ходзіць у ём.* Пархвенава Мсцісл. *Дзявоцкыя крыса — атлас ды кітайка, ‖ Атлас ды кітайка, хлапецкыя пыдманка.* З нар. песні, М. Г. 74.

ХЛАПЧО́НЫК, -нка, *м.* Хлапчанё. *Хлапчонык ня зьдзівіцца цацкай сваёй.* Палуж Краснап.

ХЛЕБ, -а, *м.* 1. Хлеб печаны. *З новыга жыта хлеб мяхкі, пульхны такі.* Слабада Раснян. 2. Хлеб, цеста. *Хлеб пыдыйшоў, а печ яшчэ ні гатова.* Горка Хоцім. 3. Хлеб, збожжа, жыта. *Ён ужу, знаць, саўсім адурей. Ета ж-такі нада — пусьціў нарошна кыня ў хлеб і думыць сабе забыў.* Арцёмаўка Міласл. *Насыпылі поўную клець хлеба.* Гусарка Клім.

ХЛЕ́БІЦ, -бца, *м.* Памянш. ад хлеб. *Хлебіц наш ужо сьпёкся, пыра вымаць з печы.* Дзягавічы Крыч. *Сіраціпка ні пасьмела пупрасіць хлебца.* Ясенка Краснап.

ХЛЕ́БНІК, -а, *м.* Той, хто корміць, даглядае. *Сынок, як пыдрасьцець, будзець маім хлебнікым.* Палуж Краснап.

ХЛЕ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Піць, хлябтаць. *Кот хлёкыя нешта, пылядзі, мо пыстыялку з гырлыча.* Хвёдараўка Краснап.

ХЛЕ́ПАЦЬ, *дзеясл.* Хлёпаць. *Дождж хлёпыя па ліцу.* Палуж Краснап.

ХЛЕЎ, хліва́, *м.* Хлеў. *Зыгані кароў ў хлеў.* Мсціслаў. *Нехта карову выпусьціў з хліва, дык іна зышла ў гарод у капусту.* Дзягавічы Крыч.

ХЛІБА́ЦЬ, *дзеясл.* Сёрбаць. *Есьце крупеню, дос вам пыстыялку хлібаць.* Арцёмаўка Міласл. *Німа ніякыга прыварку, нішчымныя хлібаім.* Хвёдараўка Краснап.

ХЛІ́БТАЦЬ, *дзеясл.* Хлябтаць. *Накрый сыўрытку ў сенцах, ато сыбакі будуць*

*хлібтаць — надовічы ўсю зьелі.* Арцёмаўка Мілаcл.

ХЛІМОН, -а, *м.* Уласнае імя Філімон. *Хлімон ужо пыхаць паехыў, во дзе нійгамона.* Слабада Крыч.

ХЛІПА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Хліпаць, плакаць паціху. *Ад малый насьмешкі наш Сьціпан пачынаіць хліпаць.* Лешчынка Мсцісл. *Чаго ты там хліпыіш?* Хвёдараўка Краснап. 2. Гарэць слабым агнём, гаснуць. *Цяпло чуць-чуць хліпыя.* Там жа.

ХЛІПТА́ЦЬ, *дзеясл.* Хлябтаць. *Іван прыспаўся ды дывай ваду хліптаць, устаўшы.* Палуж Краснап.

ХЛІСТА́ЦЬ, *дзеясл.* 1. Піць. *Сьціпан здорыва гарэлку хлешча, а пычаў ён хлістаць па сьмерці жонкі.* Тур'я Краснап. 2. Хвастаць, сцёбаць. *Ну й надвор'я ж сяньня! Дождж так і хлешчыць.* Пірагова Мсцісл.

ХЛО́ПЕЦ, -пца, *м.* Хлапец. *Куды ж тэй хлопец дзівайся, пайдзі гукні — будзем сьнедаць.* Машавая Бялынкав. *Тамыцька хлопец утануў.* Каробчына Мсцісл. *Хлопец узяўся зы клямку і адырваў яе.* Шумячы. *Матка хацела атсьцёбыць хлопца прутым.* Арцёмаўка Міласл. *Хлопца ні дабудзіцца, сьпіць, як венікі прыдаўшы.* Івоны Мсцісл.

ХЛО́ПІЦ, -пца, *м.* Хлапец. *Во назола хлопіц, ніяк ні атчэпісься ат яго.* Маластоўка Краснап. *Хлопіц з дзеўкый заліцаюцца.* Машавая Бялынкав.

ХЛО́ПЧЫК, -а, *м.* 1. Памянш. ад хлопіц. *Хлопчык ні маіць чым выцерці нос, дай яму хустычку.* Вярбоўка Расnян. *Здаровы быў хлопчык, як камёлык.* Маркаўка Хоцім. 2. *Прылада для разматваньня нітак з шпулек. Унясі хлопчыка, будзем ніткі віць.* Вінаградаў Міласл.

ХЛО́ПЫМ, *прысл.* Шматкамі. *Пываліў ужо сьнег, ды якім вялікім хлопым.* Ушакі Чэрык.

ХЛУД, -а, *м.* 1. Дубец. *Узяў хлуд ды пыгнаўся за ім.* Хвёдараўка Краснап. *Вазьмі хлуд і прыгані ў пастух сьвіньней!* Гібалы Касцюк. *Добра-ткі яго атхлымыздалі хлудым.* Хвёдараўка Краснап. 2. Ламачча. *Дроў у нас німа: паедзім, назьбіраем якога хлуду, тым і топімся.* Пірагова Мсцісл.

ХЛУ́ДЗІНА, -ы, *ж.* Павеліч. ад хлуд. *Марфа адганяла пырысят ат карыта хлудзікам.* Гібалы Касцюк.

ХЛУДЗІ́НА, -ы, *ж.* Павеліч. ад хлуд. *Вазьмі хлудзіну ды дай-дай, каб болі ня лезьлі!* Парадзіна Мсцісл.

ХЛУСІ́ЦЬ, *дзеясл.* Хлусіць, ілгаць. *Годзі табе хлусіць, ніхто табе ні паверыць.* Беразякі Краснап.

ХЛУСЬНЯ́, -і, *ж.* Хлусня, няпраўда. *Усё ета хлусьня, што, кызалі, нібыта Максім з вастрогу ўцёк, ніпраўда.* Слаўнае Мсцісл.

ХЛЫБАЗІ́НА, -ы, *ж.* Хварасціна, дубец. *Ідзі, ато дам хлыбазінай.* Хоцімск. *Узяў хлыбазіну ды ўдарыў мяне па сьпіне.* Палуж Краснап.

ХЛЫБАЗІ́НКА, -і, *ж.* Памянш. ад хлыбазіна. *Скарэй вазьмі хлыбазінку дый гані карову ў пуню.* Куркаўшчына Мсцісл.

ХЛЫБАСЬЦІ́НА, -ы, *ж.* Хварасціна, дубец. *Накінулісь ны яе сыбакі, дык іна схваціла хлыбасьціну і дывай атмахівыцца.* Арцёмаўка Міласл. *Пыд нығамі выляецца хлыбасьціна, і ніхто ні адкінець убок, во гультайства!* Лешчынка Мсцісл.

ХЛЫБЫСТА́ЦЬ, *дзеясл.* Біць, хвастаць. *Бацька яго 'тлымаў добрую дручыну ды дывай хлыбыстаць кыня.* Маластоўка Краснап.

ХЛЫПЯ́НКА, -і, *ж.* Коўдра, вытканая з ачэсак лёну. *Цётка выткала мне хлыпянку акрывацца.* Глінь Касцюк.

ХЛЫ́СНУЦЬ, *дзеясл.* Выцяць. *Як хлыснуў пырыся па лобе, дык яму й капут!* Кокатава Мсцісл.

ХЛЫСТ, -а, *м.* Доўгае тонкае бервяно ад камля да вяршыны. *Пойдзем у лес і вырубім колькі хлыстоў на ключы на пуню.* Тур'я Чэрык. *Дзесіць хлыстоў купіў у лясьніцтве.* Хвёдараўка Краснап.

ХЛЮНДРА, -ы, *ж.* Флюндра. *Во хлюндра, усю спадніцу захлюндрыла.* Пархвенава Мсцісл. *Хлюндра ты, пыдцягні спадніцу, ато ўвесь падол у грязі.* Слаўнае Мсцісл. *У, хлюндра, андрак чыста абхлюпыла.* Мсціслаў.

ХЛЮПА, -ы, *ж.* Халепа, мокры снег, снег з дажджом. *Ны дваре тыкая хлюпа, ныдзівайся цяплей, ато прамокніш.* Слаўнае Мсцісл.

ХЛЮСТ, -а, *м.* Жулік, машэннік. *Найшоўся нейкій хлюст і выцігнуў грошы.* Маластоўка Краснап.

ХЛЯ́БА, -ы, *ж.* Халепа, мокры снег, снег з дажджом. *Ны дваре тыкая хляба, што нідзе ні вылізьць.* Студзянец Касцюк. *Хуць бы ўжо йшоў сухій сьнег, ато хляба.* Гібалы Касцюк. *Ны дваре тыкая хляба: лепіць у вочы ні то сьнег, ні то дождж.* Арцёмаўка Міласл. *Ня йдзі ты сягоньня нікуды: ны дваре еткая хляба, што ні дывядзі бог.* Івоны Мсцісл.

ХЛЯБНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Сербануць. *Удваіх адной ложкый елі: адзін хлябнець, тады другій, так усё й пысірбалі.* Слаўнае Мсцісл.

ХЛЯК, -а, *м.* Кныр. *Хляк бегаіць за сьвіньнямі.* Гібалы Касцюк. *Пывялі сьвіньню к хляку ў саўхоз.* Кокатава Мсцісл. *У саўхозі ёсьць пародзістый хляк.* Юшкавічы Расnян.

ХЛЯ́ПНУЦЬ, *дзеясл.* Стукнуць, ляпнуць. *Ат злосьці так хляпнуў дзьвярамі, выходзячы, што аж вокны зазьвінелі.* Палуж Краснап.

ХЛЯ́ПЫЦЬ, *дзеясл.* Стукаць дзвярмі, ляпаць. *Хляпыя дзьвярмі, як адурэў.* Хвёдараўка Краснап. *Што ты дзьвярмі так хляпыіш?* Слабада Крыч.

ХМА́РА, -ы, *ж.* Хмара. *Насунула хмара — ці ня будзіць дождж у?* Дубеец Касцюк. *Сонечныя аткозы з-зы хмары відна.* Хвёдараўка Краснап. *Найшла абложныя хмара — дождж на цэлый дзень.* Дзіснакіта Мсцісл.

ХМА́РНА, *прысл.* Хмарна. *Нешта хмарна стала, нада сена ў копы пыскласьць.* Старае Сяло Мсцісл. *Было хмарна, а цяпер сонца выбліснула.* Палуж Краснап. *Нешта хмарна — глядзі, дождж пойдзе.* Парадзіна Мсцісл.

ХМАРНЫЙ, *прым.* Хмарны, пахмурны. *Хмарны дзень, сена ня сохніць.* Дзягавічы Крыч. *Сёньня хмарныя пагода.* Паходавічы Чэрык.

ХМАРЫЦЦА, *дзеясл.* Хмарыцца, зацягвацца хмарамі. *Нешта хмарыцца, відна, дождж будзя.* Сохана Мсцісл.

ХМАРЫЦЬ, *дзеясл.* Хмарыцца. *Сяньні нешта хмарыць, каб дожджу ня было нойды.* Шумячы.

ХМЕЛЬ, -ю, *м.* 1. Хмель. *Хмель абавіўсь кыла 'решыны.* Палуж Краснап. *Дзеўкі хмель садзілі, || А содзючы гыварілі: Расьці, расьці, хмелю, || І тонкій й высокій, || Кыряністы, глубокій.* З нар. песні, М. Г. 60. 2. Хмель, ап'яненне. *Посьлі хмелю ніяк ні прачураіцца — ляжыць і піць просіць.* Гібалы Касцюк.

ХМІН, -а, *м. бат.* Кмен. *Хлеб з хміным смашны.* Брылёўка Краснап.

ХМУ́РЫЙ, *прым.* Сумны, пахмурны. *Нешта Сымон сяньня хмурый.* Івоны Мсцісл. *Сыбачка сядзіць хмурый, ці ні зыхвареў ён.* Стары Дзедзін Міласл.

ХМЫЗО́К, -зка, *м.* Хмызняк. *У хмызок пабег заіц, а за ім сыбакі.* Башары Расням.

ХМЫЗЬНІК, -а, *м.* Хмызняк. *Етый хмызьнік нада выцерабіць, дык тут будзець харошыя трыва.* Маластоўка Краснап. *У хмызьніку ляжыць заіц.* Загоранка Чав. *Стаў коськаць, дык конь бяжыць з хмызьніку.* Палуж Краснап. *Зы два гады вырыс такей хмызьнік, што ні пралезьці.* Хоцімск.

ХМЫ́ЛІЦЦА, *дзеясл.* Злавацца, прыкладваць вушы да галавы (пра коней). *Конь хмыліцца — лядзі, ўкуся!* Хвёдараўка Краснап.

ХНЫ́КАЦЬ, *дзеясл.* 1. Хныкаць, плакаць, усхліпваючы. *Дос табе хныкаць, хадзі вячэраць.* Куркаўшчына Мсцісл. *Куплю табе гасьцінца, дос табе хныкаць. Пыпрасіла б і ўсё, а хныкаць нечыга.* Арцёмаўка Міласл. 2. Соўвацца з вугла ў вугал. *Чаго ты ўсё хныкыіш, хныкыіш у хаці, пыра дайно ўжо на полі быць.* Слаўнае Мсцісл.

ХОД, -у, *м.* Ход, праход, уваход. *Кажуць, што тут нейдзі ў пана спытайнэй ход быў.* Лютня Краснап.

ХО́ДЫРАМ ХАДЗІЦЬ. Ходырам хадзіць [дрыжаць, трэсціся]. *Хата ходырам ходзіць ат вашых скокаў.* Лешчынка Мсцісл.

ХО́ЛАД, -у, *м.* Холад. *Адзівайся цяплей, бо вялікі холад.* Бялішчына Мсцісл. *Ад холаду ў дзеўкі шчокі пачырванелі, як макаў цьвет.* Сохана Мсцісл.

ХО́ЛКА, -і, *ж.* Холка, касмык грывы над лапаткамі ў каня. *Дзяржысь, сынок, за холку, ато зваліська з кыня.* Хвёдараўка Краснап.

ХО́ЛЫД, -у, *м.* Холад. *Наша карова дужа холыду баіцца, абы мароз, дык іна ўся сагнецца ў крук.* Арцёмаўка Міласл.

ХО́ЛЬВІРЫК, -рка, *м.* [Фальварак], невялікі маёнтак. *Хольвірык еты раней належыў пану Бараноўскаму.* Людагошч Мсцісл.

ХО́ЛЯ, -і, *ж.* Праборка [наганяй]. *Дам яму холю, ніхай толькі ка мне прыдзе.* Брылёўка Краснап.

ХО́МКА, -і, *м.* Уласнае імя Фама. *Хомка пірякінуўся із возым.* Хвёдараўка Краснап.

ХО́ПІЦЬ, *прысл.* Досыць, будзе. *Хопіць табе ўжо дырыбаніць, пылажы былыбайку, ныдаеў. Хопіць табе гырлыпаніць.* Добрае Мсцісл.

ХОР, -у, *м.* Хор. *У тэхнікуме добрый хор, хараша сьпіваіць.* Сохана Мсцісл.

ХО́РАША, *прысл.* Хораша, прыгожа. *Авай, як хораша вышла!* Добрае Мсцісл.

ХОРТ, -а, *м.* Хорт, парода сабакі. *Ні тады хартоў кормюць, як у ловы едуць.* Брылёўка Краснап.

ХО́РЦІК, -а, *м.* Памянш. ад хорт. *Ета хорцік і такей, што цаны яму нет.* Івоны Мсцісл. *Прыехыў а к стайні — конікі ірзуць, || Увыйшоў у хартоўню — хорцікі віхляць.* З нар. песні, М. Г. 120.

ХО́ЎКА, -і, *ж.* Схованка, месца, дзе што-небудзь хаваюць. *Я нашоў хоўку, куды бацька хуваў свае грошы, у жыці ў гырлачы.* Слаўнае Мсцісл.

ХО́ХЫЛ, -а, *м.* Разумнік. *Хохыл ты ў мяне, што й кызаць!* Горкі Краснап.

ХО́ХЫТ, -у, *м.* Рогат. *Ішла Мыланка ды, пысьлізнуўшыся, бурдых у гразь, во было хохыту.* Куркаўшчына Мсцісл.

ХОЦЬ, *прысл.* Хоць. *Пашлі, хлопцы, у шынок, хоць пыгуляім ныпасьледык.* Ушакі Чэрык. *Ён такей гідкей стаў, хоць ні глядзі.* Парадзіна Мсцісл. *Ён такей чылавек, хоць і хочыць есьць, а ні папросіць.* Тур'я Краснап.

ХО́ЦЬЦЮ, *прысл.* Хочучы. *Я ета ня хоцьцю зрабіў.* Хвёдараўка Краснап.

ХРАМА́ЦЬ, *дзеясл.* Кульгаць. *Перабіў сьвіньні ногу, дык цяпер храмаіць.* Пірагова Мсцісл. *Ейный унук храмае, яшчэ ўмалку нагу злымаў.* Паўлавічы Клім.

ХРАМЕ́НЫК, -нка, *м.* Сын храмога чалавека. *Храмёнык павёз свайго бацька ў больніцу, будуць нагу рэзаць ці што.* Палуж Краснап.

ХРАМЫ́Й, *прым.* Храмы, кульгавы. *Пайшоў нейкі храмы чылавек к Сымонавым.* Дзягавічы Крыч.

ХРАНТ, -а, *м.* Франт. *Эйш, якей хрант знайшоўсь: штаны ў абліпычку.* Маластоўка Краснап.

ХРАНТО́Н, -а, *м.* Франтон. *Хата скончына, толькі хрантон ні зашывалі, і шалёвык німа.* Хвёдараўка Краснап.

ХРАНЦ, -а, *м.* Уласнае імя Францішак. *Хранц з жонкай паехыў да дохтуря.* Малюшын Краснап.

ХРАНЦУ́З, -а, *м.* Француз. *У нас тут хранцуз адзін жывець, кажыць, што з-зы мяжы прыехыў.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Я разым з хранцузымі ў пляну ў немцыў быў.* Бяседавічы Хоцім.

ХРАПА, -ы, *ж.* Храпа. *У майго кыня храпы аж рыздуваюцца ад страху.* Барысавічы Клім. *Авадзён укусіў кабылу зы самую храпу.* Кісялёва Буда Краснап.

ХРАПКА, -і, *ж.* Цвёрдае сцябло ў качане капусты. *У гародзі ат капусты зысталісь адны храпкі.* Ушакі Чэрык. *Ты пасівеў, як храпка ў капусты.* Хвёдараўка Краснап.

ХРАП'Я, -я, *мн. л.* Пасечаная трава ці капусны ліст [для кармлення свіней]. *Ці*

*дробна насечына храп'я. Ато сьвіньні есьць ня будуць.* Дзягавічы Крыч. *Нымішалі мы сьвіньням пойную шайку храп'я, а чужыя сьвіньні ўвыраваліся і зьелі.* Пірагова Мсцісл. *Пыраска, пайдзі ты ньізьбірай храп'я ды нысячы сьвіньням.* Малюшын Краснап.

ХРАСІНЬНЯ, -і, *ж.* Уласнае імя Афрасіння. *Дзейкі ходзюць у супрыткі к Храсіньні, дык іна, Храсіньня, будзіць пупрядуху сьбіраць.* Арцёмаўка Міласл.

ХРАСТКІ, -оў, *мн. л.* Крыжавіна ў [чалавека і] жывёлы. *Так ударыў кыня пы храстках, што аж нызад сеў.* Ушакі Чэрык. *Храсткі ў кыня шурокія—дужы конь.* Хвёдараўка Краснап.

ХРАСТОК, -тка, *м.* Храсток. *Упаў носым ны камінь і храсток у носі зльмаў — крыві сколькі вышла зь яго, страх!* Дзягавічы Крыч.

ХРАСТОЎНІК, -а, *м. бат.* Зелле. *Храстоўнік — трыва з няшырокім лістом, цьвіцець жоўтым цьветам.* Пірагова Мсцісл.

ХРАЦЬ, *дзеясл.* Уцякаць. *Храй адцюль хутчэй, ато пыпадзе табе ад Максіма.* Бяліцчына Мсцісл.

ХРЕСНЫЙ, *прым.* Хросны. *Скора будуць ксьціны, ну, матка хрёсныя, гатуй намётку куме ны спадніцу.* Слаўнае Мсцісл.

ХРЁСТ, -а, *м.* 1. Крыж. *Ты йшчэ носіш хрёст? А я свой даўно ўжо скінуў.* Іванаўка Хоцім. 2. Крыжаванне ў страсе, пастаўленыя накрыж жэрдкі, на якія кладуць кладзь. *Бэлька дзяржыць хрёст і крышу. Кладка ляжыць ны хрясту.* Пухнава Расіян. 3. Прылада вазіць жэрдзе і бярвенне. *Лажы жэрдзі канцамі далі на хрёст, ато пазьедуць.* Бяседавічы Хоцім.

ХРЕСЬНІЧЫК, -чка, *м.* Хрэснік. *Кумок ты мой! Памёр жа мой Васілька — твой хресьнічык.* Камароўка Крыч.

ХРІБІТ, -а, *м.* Спіна. *У кыня шлія зьехыла набык, пупраў яе, пірадзьвінь на хрібіт.* Арцёмаўка Міласл.

ХРІБЯТНІК, -а, *м.* Удар у спіну. *Ні ныдыйдай, ато дам хрібятніка і пойдзіш, плачучы.* Маластоўка Краснап.

ХРІСТАПРЫДАЎЦА, -ы, *м.* Здраднік, прадажнік. *Здраднік ты, хрістапрыдаўца!* Слаўнае Мсцісл.

ХРІСЬЦІЦЦА, *дзеясл.* Хрысціцца. *Хрісьціцца яго ні вучаць.* Карма-Пайкі Краснап.

ХРІСЬЦЯНІН, -а, *м.* Селянін, вясковец. *Якей та хрісьцянін прішоў да ўчыціля, відна, яго бацька.* Восаў Краснап.

ХРОПНУЦЬ, *дзеясл.* Хруснуць, трэснуць. *Як схапіў за руку, дык аж хропнула. Нешта ў лесі хропнула.* Хвёдараўка Краснап.

ХРОСЬЦІЧЫК, -чка, *м.* Крыжык. *У дзіцёнка срэбны хросьцічык.* Самацевічы Касцюк.

ХРУКТЫ, -аў *мн. л.* [Фрукты], садавіна. *Сёліта хрукты ўраджайны.* Васілеўка Хоцім.

ХРУЛІ, -ёў, *мн. л.* Вейкі. *Падымі свае хрулі ды пыглядзі на людзей.* Хвёдараўка Краснап.

ХРУМЦЕЦЬ, *дзеясл.* Хрумцець, хрусцець. *Кілбыса дужа падпрежына, аж хрумціць на зубах.* Арцёмаўка Міласл.

ХРУПЫТАЦЬ, *дзеясл.* Хрусцець, трашчаць. *Мяне як сьціснулі, дык аж косьці сталі хрупытаць.* Горна Краснап.

ХРУСТ, -а, *м.* Хруст. *Па лесі чуцін хруст сухога суччa — нехта йдзець!* Сохана Мсцісл.

ХРУСЬЦЕЦЬ, *дзеясл.* Хрусцець, трашчаць. *Прашнуўся і пычаў зіваць і пыцягвыцца, што аж у суставых хрусьцела.* Арцёмаўка Міласл.

ХРУСЬЦІКІ, -ыў, *мн. л.* Хрусцікі, пячэнне, якое хрусціць на зубах. *Сьпякла сяньні хрусьцікыў, дзеці іх дужа любяць.* Хвёдараўка Краснап.

ХРУШЧ, -а, *м.* 1. *заал.* Хрушч, жук. *Ужо хрушчы пыявілісь — значыць, цяпло будзіць.* Тур'я Чэрык. 2. Хрусцік. *Хрушчоў надзелыла лі дзяцей, хай хрустаюць.* Хвёдараўка Краснап.

ХРЫБІТ, -а, *м.* Хрыбет, спіна. *Пірануў хлопца ў хрыбіт, а за што — біз дай прычыны.* Горка Краснап.

ХРЫЙТОН, -а, *м.* Франтон. *Сяньні нада зашыць хрыйтон у хаці, ато ўзімку сьнегу на столь надзьмець.* Хвёдараўка Краснап.

ХРЫМАЦЬ, *дзеясл.* [Храмаць], кульгаць. *Абмуліў ботым нагу і хрымаіць.* Мсціслаў. *Нешта конь хрымаць стаў, нагу вывіхнуў ці што?* Канічы Касцюк.

ХРЫПАЦЕЦЬ, *дзеясл.* Трашчаць, хрусцець. *Так сьціснулі, што косьці хрыпыцяць.* Палуж Краснап.

ХРЫПЕЦЬ, *дзеясл.* Хрыпець. *Нешта твыя гармонь хрыпіць, гыласы сыпсуваліся.* Дзягавічы Крыч.

ХРЫТОН, -а, *м.* Уласнае імя Харытон. *У Хрытона нішчасьця: карова прабілыся на кол.* Добрае Мсцісл.

ХРЭЗЬБІНЫ, -аў, *мн. л.* Хрэсьбіны. *Хадзем на хрэзьбіны к Хведыру, у яго ж сын радзіўсь.* Ушакі Чэрык.

ХРЭНЧ, -а, *м.* Фрэнч. *Знаць, наш Якуў жаніцца сьбіраіцца, што хрэнч сабе такей пашыў.* Бяседавічы Хоцім.

ХРЭСТ, -а, *м.* Хрэст. *Ну, вот табе хрэст, што ня ўру!* Парадзіна Мсцісл. *У пыпа на шыі вісіць вялікій хрэст.* Ушакі Чэрык.

ХРЯПКА, -і, *ж.* Храпка, капуснае сцябло. *Коній пусьцілі ў гарод, дык ходзяць пы грядых і грызуць хряпку.* Вітрунь Касцюк.

ХРЯСТКІ, -оў, *мн. л.* Спіна, крыжавіна. *Быляць хрясткі, што ні магу сагнуцца. Ета я лі выкна сядзеў, дык мне надула нейдзі ў сьпіну.* Арцёмаўка Міласл.

ХРЯШЧОНЫЙ, *прым.* Хрышчоны. *Дзівіцеся людзі і ўвесь мір хряшчоны.* Івоны Мсцісл.

ХРЯШЧЭНЬНЯ, -я, *н.* Вадохрышча, рэлігійнае свята. *Дзела було ў мясывід, пысьля хряшчэньня.* Палуж Краснап. *Заўтрі хряшчэньня, пойдзім ны вадохрішча.* Высокі Бор Краснап.

ХТО, *займ.* Хто. *Хто рана ні ўстаець, у таго хлеба ні стаець.* Гібалы Касцюк. *Нашто скаціна, і тая пынімая, хто яе корміць.* Парадзіна Мсцісл.

ХТОЙ-ТА, *займ.* Нехта, хтосьці. *Хтойта ходзіць кыла хаты.* Дубеец Касцюк.

ХТОСЬ, *займ.* Хтосьці, нехта. *Хтось нераты нашы патрос — рыбы німа.* Вярбоўка Расняп.

ХУВАЦЦА, *дзеясл.* Хавацца. *У ясный дзень зыкылкі літаюць, а ў дождж хуваюцца пад лісьця дрэў.* Бяседавічы Хоцім.

ХУВАЦЬ, *дзеясл.* 1. Хаваць. *Яны сваі ўборы у кубіл хуваюць.* Галоўчыцы Калінінпчына. *Наш поп дужа скупэй: усі грошы хуваіць — аткладываньня ў банк робіць.* Старае Сяло Мсцісл. *Езьця вы, госьційкі, ужывайця, || Толькі ў кырманы ні хувайця.* З нар. песні, М. Г. 44. 2. Хаваць пакойніка. *Каго гэста візуць хувацъ ны могілкі?* Ушакі Чэрык. *Вісільнікаў і зялейнікыў ны магілках ні хуваюць, а паводыль.* Гарадок Расняп.

ХУДАЛЕТКІ, -каў, *мн. л.* Ліхалецце, галодныя гады. *Прыйшлі худалеткі, нечыга ні есьць, ні піць.* Маластоўка Краснап.

ХУДАЛЕЦЬЦЯ, -я, *н.* Ліхалецце, галодныя гады. *Етыя гады ўсё худалецьця нейкыя — нічога ня родзіць.* Новы Дзедзін Міласл.

ХУДАМЕНТ, -а, *м.* Фундамент. *Хату пыставілі на худамент.* Машавая Бялынкав.

ХУДОБА, -ы, *ж.* 1. Худоба, жывёла ў гаспадарцы. *Браты ўсю худобу пыдзялілі папыл.* Палуж Краснап. 2. Худы конь. *Ні цягня твыя худоба.* Хвёдараўка Краснап. 3. Хатняя маёмасць. *Уся худоба мыя раськідына па ўсёй хаці, дзе пыпала.* Лешчынка Мсцісл. 4. Беднякі. *У нашый дзярэўні тумырыў німа, адна худоба жывець.* Смольская Буда Бялынкав. *А ў горыдзі на рынку || П'ець худоба гарелку, || А быгатый дзівіцца, || Чым худоба жывіцца.* З нар. песні, М. Г. 85.

ХУДУБА, -ы, *ж.* 1. Схудненне, здыхата. *Худуба на скот у ёгым гаду.* Хвёдараўка Краснап. 2. Беднасць. *Куды ты гадзісься — худыба-худабой.* Добрае Мсцісл.

ХУДЫЙ, *прым.* Худы. *Нейкі ён дужа худый, замурзаный.* Пірагова Мсцісл. *Ну што ты ў ёй нашоў — худая, доўгая.* Парадзіна Мсцісл.

ХУК, -а, *м.* 1. Няўдача. *Што, улавіў хука?* Хвёдараўка Краснап. 2. Фук. *Два хукі сырваў у Піліпа, нікай глядзіць, як гуляць у шашкі.* Маластоўка Краснап.

ХУКАЎКА, -і, *ж.* Пара з рота пры дыханні. *У хаці сцюдзёна — хукыўкі відны, як пусьціш з роту.* Палуж Краснап.

ХУКЫНЬНЯ, -я, *н.* Хуканне, дыханне. *Хукыньнім атхаілі пісклёнка.* Хвёдараўка Краснап.

ХУКЫЦЬ, *дзеясл.* Хукаць, дыхаць. *Хукый на рукі, дык сагрэісься.* Хвёдараўка Краснап. *Хукыла, хукыла піськлёнка, ткі атхукыла.* Палуж Краснап.

ХУЛА, -ы. *ж.* Хула, ганьба. *Етыкыя хула ня просьціцца.* Слаўнае Мсцісл.

ХУЛАПА, -ы, *ж.* Голуб польны. *Хулапа яйцо зьнісла ў ральлі. Найшоў сяньні два хулапіных яйцы.* Хвёдараўка Краснап.

ХУЛЬВАРІК, -рка, *м.* Фальварак. *Тут недалёка, водыль лесу, ёсьць нібальшэй хульварік, туды мы й зайдзем: хызяін — харошый дзядзька, ні прагоніць.* Пухнава Расняп.

ХУЛЬНА, *прысл.* Кепска, нядобра. *Хульна ты робіш, што сама к яму ходзіш. Што бацька з маткай скажуць?* Ушакі Чэрык.

ХУМУЦІНА, -ы, *ж.* Хамуціна. *Хумуціна ўся пыразьлезлысь, нада новыю дзелыць.* Хвёдараўка Краснап.

ХУНТ, -а, *м.* Фунт. *Прыдай мне хунт яблык.* Васілеўка Хоцім. *З кудзелькі войны я ныпрала два хунты пражы.* Бяседавічы Хоцім. *Мой кантыр цягніць на пітнаццыць хунтаў.* Лешчынка Мсцісл. *Атваж мне хунты тры цукру.* Клімавічы.

ХУРАЖКА, -і, *ж.* Шапка-казырок. *Мыя хуражка ат сонца стала рыжыя.* Васілеўка Хоцім.

ХУРМАН, -а, *м.* Фурман. *Дзе гэта падзеўсь наш хурман? Ехаць ужо пыра.* Ушакі Чэрык.

ХУРМАНКА, -і, *ж.* Фурманка, падвода. *Хурманкі з хлебым паехылі ны станцыю.* Мазалава Мсцісл. *Пыклалі пысагу || А на 'дну хурманку || І злата і срэбра; || На другую хурманку || А скрыні, пярыны.* З нар. песні, М. Г. 140.

ХУРХУРОВЫЙ, *прым.* Фарфоравы, зроблены з фарфору, фаянсу. *Я купіла сабе хурхуровую пасуду.* Слаўнае Мсцісл.

ХУСТА, -ы, *ж.* Хустка. *Зывяжы ны гылаву хусту, так ня йдзі.* Канава Хоцім. *А йдзе мыя хуста чырвоныя? Тваю хусту Мар'я зывізала.* Азерцы Клім.

ХУСТКА, -і, *ж.* Хустка. *Дзяўчына зывізала новую хустку.* Маляцічы Крыч. *Ды чаго мы дажыліся — у мяне апошнія хустка на гылаве і купіць нейдзе.* Журбін Бялынкав. *У мяне цёплыя хустка, дык цяпло мне.* Стары Дзедзін Міласл. *Сістра купіла прыгожую хустку.* Шумячы.

ХУТАР, -а, *м.* Хутар, асобны двор, гаспадарка. *Заўтра прыйдзя аграном абмерваць хутары.* Нашкавічы Мсцісл. *На хутарох удалей жыць, як ны дзярэўні.* Мядвёдаўка Краснап. *Ета дзярэўня рызьбіваіцца на хутары.* Арцёмаўка Міласл.

ХУТКА, *прысл.* Хутка. *Хутка ўжо пачне аць́цьвітаць грэчка.* Нашкавічы Мсцісл. *Лямпа хутка згасьніць.* Паходавічы Чэрык. *Я хутка зьбегыю і хутка вярнусь.* Белы Камень Бялынкав.

ХУТРА, -а, *м.* Футра, паліто, падбітае мехам. *Паміраючы, матка адказала хутру дачцэ.* Куляшоўка Клім. *Хутра вісіць на сьцяне.* Крычаў. *Пріiжджаў нейкій пан у дзярэўню, апранутый у хутру, з вілізарным кысматым куўнярам.* Слаўнае Мсцісл.

ХУТУР, -а, *м.* Хутар. *Скушна жыць ны хутурах, бязьлюдзьдзя кругом, чылавека ў вочы ня ўвідзіш.* Арцёмаўка Міласл.

ХУХЦЕНЬКІ, *выкл.* Хухценькі. *Хухценькі вы мае, во зымарылась: тры куліткі лёну нымяла.* Куркаўшчына Мсцісл.

ХУХЫЦЬ, *дзеясл.* Хукаць. *Хухый у рукі, ато замерзнуць.* Палуж Краснап.

ХУЦЬ, *прысл.* Хоць. *Я пупаў у такоя сіло, хуць зыдавісь.* Палуж Краснап. *Пыдыражэла цяпер тыбака, хуць кінь курыць.* Лешчынка Мсцісл. *Хуць ба ты парупіўся аб етым.* Хвёдараўка Краснап. *Хуць ба гы-*

*варіў чылавек па-людзку, ато лымаіцца, пляцець.* Слаўнае Мсцісл. *Хуць бы ты мне дай вады выпіць — смагу прыгнаць.* Гібалы Касцюк.

ХУЧЬ, *прысл.* Хоць. *Як жаніўся, думаў — будзіць жонка добрыя, ажно такій гультай, што хучь ты колам у сьцяну бі.* Пірагова Мсцісл.

ХЦІВА, *прысл.* Хціва, прагна, зайздросна. *Хціва пыглідаіць ны цябе етый чылавек, як кот ны сала.* Нізькі Касцюк.

ХЦІВЫЙ, *прым.* Хцівы, прагны, зайздросны. *Хцівы чылавек ніколі ні зыдаволіцца.* Журбін Бялынкав.

ХЦІВЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Хцівасць, прагнасць, зайздроснасць. *Хцівысьць на быгацьце прыводзіць людзей да душагубства і ўсякіх розных праступкаў.* Сохана Мсцісл.

ХЫВАЦЬ, *дзеясл.* 1. Хаваць. *Хывай ні хывай, усёдно знайду.* Забелышаны Хоцім. 2. Хаваць нябожчыка. *Зьмітрыка ўжо пынясьлі хываць ны магільнік.* Слабада Расняп. *Мірцьвіцы хываюць ны магільніку.* Палуж Краснап.

ХЫДА, -ы, *ж.* Хада, паходка. *У яго шыбкыя хыда, ён можыць сем вёрст у час прайціць.* Арцёмаўка Міласл. *Мыя хыда бnative.* Раўнішча Краснап.

ХЫДНЯ, -і, *ж.* Хада. *У яго чартоўскыя хыдня — як выпрывіцца, дык і ны кані ні дагоніш.* Добрае Мсцісл.

ХЫДЗЯЙКА, -і, *ж.* Гаспадыня. *Добраю хыдзяйкаю Зоська стала.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Хыдзяйка, сыбірай абедаць, есьць хочыцца.* Журбін Бялынкав. *Бі жану кычалкыю, || Каб была хыдзяйкыю.* З нар. песні, М. Г. 94.

ХЫДЗЯІН, -а, *м.* Гаспадар. *Ён хыдзяін рупытлівый, ні засьпіцца, да сонца ўстаніць.* Слаўнае Мсцісл. *Максім — самы лепшы хыдзяін у вёсцы.* Міцькаўшчына Мсцісл. *У добрыга хыдзяіна добрыя й скаціна.* Папоўшчына Мсцісл.

ХЫДЗЯЙСТВА, -а, *н.* Гаспадарка. *Сусед мой маіць бальшое, быгатае хыдзяйства.* Сохана Мсцісл. *Бацька памёр, а хыдзяйства правіць некыму.* Слаўнае Мсцісл.

ХЫДЗЯКА, -і, *м. і ж.* Бадзяга, жабрак. *Ні пасьпеў адзін хыдзяка выйсьці — на табе, другі ідзець.* Добрае Мсцісл. *Сахон — хыдзяка, за свой век паўсьвету абышоў.* Кокатава Мсцісл. *Хыдзяка назьбірай повін хатыль хлеба, пакуль абыйшоў дзярэўню.* Слаўнае Мсцісл.

ХЫЗЯІН, -а, *м.* Гаспадар. *Ніхай яно згарыць зь етым жыцьцём — кожны ныд табою хызяін.* Арцёмаўка Міласл. *У добрыга хызяіна і ны дварэ пырадык.* Канічы Касцюк.

ХЫЗЯЙСТВА, -а, *н.* Гаспадарка. *Такоя ў мяне хызяйства, але й тоя пытрабуя догліду.* Дзягавічы Крыч. *У хызяйстві нада жыць з рашчотым, штоб нічога дарым ні прыпадала.* Арцёмаўка Міласл. *У хызяйстві ўсё прыгадзіцца.* Канічы Касцюк.

ХЫЛІПА, -ы, *ж.* Халепа, мокры снег. *Ны дварэ нейкыя хыліпа і холад.* Маластоўка Краснап. *Сьнег з дажджом — тыкая хыліпа, што ні прівядзі бог: застыць у полі ня дзіва.* Боханы Росл.

ХЫЛЯВА, -ы, *ж.* 1. Халява. *Адна добрыя хылява ў боці, а другая троху парезына.* Лешчынка Мсцісл. *Зрабіў мне шавец хылявы, што хуць ты з гылавою ў іх лезь.* Тур'я Чэрык. *У тваіх ботах дужа шырокія хылявы.* Хвёдараўка Краснап. 2. Шырокая нізкая бутэлька. *Прынясі з клеці хыляву з сымагонкай.* Там жа.

ХЫМА, -ы, *м.* Уласнае імя Фама. *Наш Хыма пашоў у школу, дык учыціль запісаў яго Фама — во, сьмешна!* Бяседавічы Хоцім.

ХЫМІРЫЧЫЦЬ, *дзеясл.* Не згаджацца на ўгаворы. *Ні знаю, ці што будзіць зь етыга дзела, бо ён хымірычыць.* Татаршчына Мсцісл.

ХЫМІЧНЫЙ, *прым.* Хімічны, аніліна-вы. *Ты мне купі хымічны аловык.* Старае Сяло Мсцісл. *Я чарніла дзелыю сам з хымічныга алоўка.* Дзягавічы Крыч.

ХЫМЯНЕМ, *прысл.* Ходарам. *У Хвяціса ігрішча: і пяюць, і скачуць, і крічаць, ажна хата хымянём ходзіць.* Гібалы Касцюк.

ХЫПАЦЦА, *дзеясл.* Хапацца, спяшацца ў рабоце. *Хыпайся скарэй сена ўвезці, каб дождж ні пайшоў.* Палуж Краснап. *Хыпалась памыць, дык 'ня бела вышла.* Іванаўка Хоцім. *Ні хыпайся — дзелай спыхвыля.* Гібалы Касцюк.

ХЫПАЦЬ, *дзеясл.* 1. Хапаць, браць. *Ні хыпай зыраз усе яблыкі, а бяры пы 'днаму.* Лешчынка Мсцісл. 2. Хапаць, выстарчаць. *Жывець ён добра: усяго хыпаець.* Ушакі Чэрык. *Зырыбляю я мала — ны яду чуць хыпаець.* Дзягавічы Крыч. *У быране не хапае кляцой, а трэба бырынываць ехаць.* Парадзіна Мсцісл.

ХЫРАКЦІР, -а, *м.* Характар. *Згубіць хлыпца яго хыракцір — рыхманы ён дужа.* Дзягавічы Крыч.

ХЫРАШО, *прысл.* Добра. *Ні нада гáліцца многа зьдзелыць, луччу мала, ды хырашо.* Арцёмаўка Міласл. *Наша сылмарезка хырашо режыць резь.* Канічы Касцюк.

ХЫРАШЭНЬКА, *прысл.* Добранька. *Ото тэй цябе біў учора, дай яму хырашэнька.* Дзеражна Касцюк. *Укруці хырашэнька воз задоўкый, каб сена ні рассыпалыся.* Слаўнае Мсцісл. *Хацеў атсьвістаць яму хырашэнька, штоб знаў як бріхаць.* Арцёмаўка Міласл.

ХЫРЬКАВІНЬНЯ, -я, *н.* Харкавінне. *Ні выплёўвай хыркавіньня на мост.* Арцёмаўка Міласл. *Кашлію я дужа моцна, і хыркавіньня многа.* Дзягавічы Крыч.

ХЫРЬКАЎЕ, -я, *н.* Харкавінне. *Дохтурь вялеў хырькаўё выплеўвыць у якую чыряпушку.* Дзеражна Касцюк.

ХЫРЯХОНЯ, -і, *м. і ж.* Чалавек, што ўпрыгожваецца з мэтай зьвярнуць на сябе ўвагу. *Эйш, хыряхоня, нырпянуўсь пы гырадскому і лезіць наўперід.* Маляцічы Крыч.

ХЫТЫЛМА, -ы, *ж.* Ветраны чалавек, пустадом. *Хлопіц наш — хытылма, нічога зь яго добрыга ня жджы!* Маластоўка Краснап.

ХЫХЫТАЦЬ, *дзеясл.* Рагатаць, смяяцца. *Ну і ёсьць жа ў цябе ахота хыхытаць увесь дзень.* Слаўнае Мсцісл. *Хыхытаў, хы-*

*хытаў, а пысьля плакыць пычаў.* Забелышаны Хоцім.

ХЫЦЯ, *прысл.* Хаця, хоць. *Вылацуга ты, хыця б ты што-небудзь рабіў, ато валочыцца пы дзярэўні.* Касцюковічы. *Хыця б мне дзесіць рублёў зараз, і то я вывірнуўся б, ато ні грыша.* Маляцічы Крыч. *Хыця ж каб ты быў здароў, ато ноўды зыхварэіш у дарозі, што тады?* Бабынічы Міласл.

# Ц

ЦАБЭРАК, -рка, *м.* Цабэрак. *Апрыстай ты мне гэсты цабэрак, вылі зь яго ваду.* Ушакі Чэрык. *Засілі вады з цабэрка.* Тур'я Чэрык.

ЦАГЕЛЬНЯ, -і, *ж.* Цагельня. *Тут раней была цагельня, а ета печы зысталіся, што выпальвалі цэглу.* Мсціслаў. *Цэглу робяць у цагельні.* Слабада Расням. *Дзе гэста вы цэглы дысталі? Во дзіва дыстаць, калі цагельня блізка.* Ушакі Чэрык.

ЦАГЛІНА, -ы, *ж.* Цагліна, цэгла. *Ен жа ніколі двору ня прыдзе, штоб ня прынесьць чаго: то цагліну, то палена цягніць.* Хоцімск. *Конь чуць вёз воз цаглін.* Тур'я Чэрык. *Адна цагліна важыць двынаццыць хунтуў.* Лапаціна Мсцісл.

ЦАДЗІЛКА, -а, *н.* [і -і, *ж*]. Цадзілка. *Пыдай сюды цадзілка, працэдзім мылако.* Студзянец Касцюк. *На кірмашы купіла сабе цадзілка, ато ўсё мылако цадзіла на хусьцінку.* Зоры Крыч.

ЦАДЗІЦЬ, *дзеясл.* Цадзіць, працэджваць. *Ці ты мылако цадзіла? А няго ж. А чаму ў пыстыялцы волыс плавыіць.* Залесавічы Крыч.

ЦАЛЬПУХ, -а, *м.* Каротка адрэзаны кавалак бервяна. *Цальпух еты нада пыкалоць на дровы.* Дзягавічы Крыч. *Бацька атрэзыў цальпух ат бірвіна.* Шумячы.

ЦАЛЭП-ЦАЛЭП, *выкл.* Тут-туп. *Дзед зы намі па вуліцы цалэп-цалэп!* Сцяпанаўка Краснап.

ЦАНА, -ы, *ж.* Цана, вартасць, кошт. *Нашто ты цану набіваіш?* Палуж Краснап.

ЦАПАЦЬ, *дзеясл.* [Цапаць], хапаць, груба рыўком браць. *Ні цапай так — ні тваё!* Дзягавічы Крыч.

ЦАПІЛНО, -а, *н.* Цапільна, палка, да якой прывязваецца бічук у цэпе. *Палумалысь цапілно.* Машавая Бялынкав. *Цапілно няёмкыя ў етым цапу — мылаціць кепска.* Хвёдараўка Краснап.

ЦАП-ЛАП, *выкл.* Цап, хап. *З такою вешчу, як часы, трэба абыходзіцца, а ні то што цап-лап ды спорціў.* Добрае Мсцісл.

ЦАПОК, цапка, *м.* 1. Кіёк [жэрдачка]. *Унучык, пыдай мне цапок — выйду на вуліцу.* Бяседавічы Хоцім. *Старыя паплілась з цапком у поля.* Касцюковічы. 2. Пруток, да якога прывязваюцца ніты. *Пылумаўся цапок у нітох.* Новыя Капачы Мсцісл.

ЦАПЫЦЦА, *дзеясл.* Хапацца рукамі за што-небудзь. *Ні цапыйся за ета, яшчэ паўдзелыіш рукі.* Палуж Краснап.

ЦАПЫЦЬ, *дзеясл.* Цапаць, хапаць, браць. *Ні цапый етыга, ты тут ні клаў!* Хвёдараўка Краснап.

ЦАРКВА, -ы, *ж.* Царква. *Я ў царкву ўжу даўно ні хаджу.* Пірагова Мсцісл. *Маці надзела красный андрак, завізала новую хустку і пайшла ў царкву.* Там жа.

ЦАРСКІЙ, *прым.* Царскі. *У нас цяпер Савецкая ўласьць, а ні царскыя і ні буржувазныя.* Арцёмаўка Міласл.

ЦАРСТВА, -а, *н.* Царства, дзяржава. *Раньшы было царства, а січас распубліка Савецкая.* Пархвенава Мсцісл. *Харошый чылавек быў яго бацька, царства яму нябесныя!* Бяседавічы Хоцім.

ЦАЎЁ, -я, *н.* 1. [Чарапок], палка ў матыкі, лапаты і г. д. *У маёй лупаткі гладзінькыя цаўё.* Канічы Касцюк. 2. Цапільна. *Пулумаў цаўё у цапу.* Хвёдараўка Краснап.

ЦАХЛІЦЬ, *дзеясл.* Яхаць, адрывіста брахаць (пра брэх сабакі, калі бяжыць за зайцам). *Сыбака цахліць, мабыць, зайца гоня.* Горкі Краснап.

ЦАХЛЯ, -і, *ж.* Сабака, што «цахліць», гонячы зайца. *Цахля кахыя — відна, зайца гыняя.* Хвёдараўка Краснап.

ЦАХНА, -ы, *ж.* Цахна, прайдоха. *Ну й цахна твыя дзеўка! Чаго толькі яна ні выдзелыіць.* Капахоўка Клім. *Ці ж ты ня ведыіш гэстай цахны? Яна ж усюды пралезіць, к усім падмасьліцца.* Ушакі Чэрык.

ЦАЦА, -ы, *ж.* Цацка, забаўка. *Ні плач, дзетка, я табе дам цацу.* Добрае Мсцісл.

ЦАЦКА, -і, *ж.* Цацка, забаўка. *Нашто зыбурыў нашы цацкі?* Пабкі Расням. *Дайце Людвісі цацку, ніхай зыбыўляецца.* Малюшын Краснап. *Дзіцёнку зыбыўляцца нада цацку якую купіць, брязголку.* Арцёмаўка Міласл.

ЦАЦКЫЦЦА, *дзеясл.* Цацкацца. *Што ты думаеш, я с табою буду цацкыцца? Схвачу во за ногі — ды ў речку.* Бяседавічы Хоцім.

ЦАЦЭНЬ, -і, *ж.* Перапечка. *Дай мне цацэнь, я зьем кусок.* Маслакі Аршаншчына.

ЦВІНТАР, -а, *м.* Цвінтар, панадворак у царкве. *На цвінтары быгата народу.* Палуж Краснап. *Целый век ён быў звынарём, і схувалі яго на цвінтыры рядым з старым папом.* Бяседавічы Хоцім.

ЦЕЛА, -а, *н.* Цела. *У мяне ўсё цела баліць, як хто зьбіў.* Краснаполле. *Труну з целам бацькі пывязьлі на магільнік.* Лабаноўка Хоцім. *У цябе ўсё цела ў нейкіх плямых.* Касар Чэрык.

ЦЕЛЕШ, -а, *м.* Тоўстае, кароткае палена. *Аткаціця етый целеш з дарогі, вунь туды к сьцяне.* Брылёўка Краснап.

ЦЕЛКАВУХА, -і, *ж.* Яечня, спечаная на скавaрадзе з неразбоўтаных яец. *Ці любіш ты целкавуху ці яешню?* Мсціслаў.

ЦЕЛЯПЕНЬ, -пня, *м.* Тоўсты, непаваротлівы чалавек. *Як ёсьць целяпень — ні*

*паверніш ніяк.* Хвёдараўка Краснап. *Гэты целяпень пакуль паверніцца, дык там нічога ні 'станіцца.* Лапаціна Мсцісл.

ЦЕЛЯПНІ, -ёў, *мн. л.* Гульня. *Мы гулялі ў целяпні.* Шарэйкі Касцюк.

ЦЕМЕНЬ, -і, *ж.* Цемень, цемната. *Ой, якая цемень, хоць вока выкалі.* Хвёдараўка Краснап. *Ны дваре тыкая цемень, што хуць вока выкалі.* Лешчынка Мсцісл. *Тут тыкая цемінь, што нічагуткі ні відаць.* Гарбавічы Краснап.

ЦЕМРА, -ы, *ж.* Цемра, цемень. *Цемра цёмныя ны дварэ.* Бардзіч Краснап.

ЦЕНЬ, -ю, *м.* Цень. *Цень падыя ат болакаў ны зямлю.* Нізькі Касцюк. *Ен ценю свайго баіцца, ня то што.* Касар Чэрык.

ЦЕПЕРСЯ, цепірся, *прысл.* Даўно, доўгі час. *Але ж думай ты — цеперся яго шукаюць і ніяк ня знойдуць.* Мсціслаў. *Цеперся пайшоў мой стары, і даетуль німа.* Лешчынка Мсцісл. *Цеперся я тутыка таўкуся, а нічога ні дабіўся.* Хвёдараўка Краснап. *Цепірся ета мы іх дыжыдаім, аж тошна стала.* Арцёмаўка Міласл.

ЦЕПЯХУ́-ЛЕПЯХУ́, *прысл.* Туды-сюды. *Я тады цепяху-лепяху ды барджэй у клець, атрезыла сала ды дала яму есьць.* Студзянец Касцюк.

ЦЕРАЗ, *прыназ.* Цераз, праз. *Сяньня ўжо шарэш ны рацэ, скора пычанем езьдзіць цераз.* Юшкі Мсцісл.

ЦЕРАМО́К, -мка, *м.* Церамок, абкладзеная дошкамі магіла, мае выгляд хаткі. *Перад радуніцаю сіляне робяць на могілках церамкі.* Юшкавічы Расиян.

ЦЕРПІЦЬ, *дзеясл.* Цярпець. *Нада ж еткую труду церпіць і ўсё ціраз сына.* Палуж Краснап.

ЦЕРЦА, *дзеясл.* Церціся. *Коні нешта пычалі церца аб сьцену, ці ні кароста ў іх толькі?* Стары Дзедзін Міласл.

ЦЕРЦЬ, *дзеясл.* Церці. *Бацька зьбіраецца іціць церць салому.* Лешчынка Мсцісл.

ЦЕРЬЦЬ, *дзеясл.* 1. Церці. *Нада бульбу церьць ны заўтрі на бліны.* Юшкі Мсцісл. 2. Націраць. *Кылі ногі ломюць, дык нада ныпаріць быдзягі ды церьць ёю ногі.* Арцёмаўка Міласл.

ЦЕСНА, *прысл.* Цесна. *Кышара мыла, цесна статку ў ёй, каровы адна адну порюць.* Арцёмаўка Міласл. *Жаніў во сына, дык цяпер нявестка з хаты гоніць, цесна стала.* Бяседавічы Хоцім.

ЦЕСНЫЙ, *прым.* Цесны. *Пінжак табе еты цесны, ні гадзіцца.* Мсціслаў. *Вулычка дужа цесныя: дзьве падводы ні размінуцца.* Маластоўка Краснап. *Бацінкі дужа цесны, ногі муліюць.* Арцёмаўка Міласл.

ЦЕСТА, -а, *н.* Цеста. *Узіла цеста ад хлеба ды ны скывародкі сьпікла перапечку.* Касцюшкавічы Крыч. *Ныкычай бабушык з цеста — зварім клёцкі.* Слаўнае Мсцісл.

ЦЕСЬЦЬ, -я, *м.* Цесць. *Янка, гатуй кварту гарелкі — цесьць едзя ў госьці.* Міцькаўшчына Мсцісл. *Зяць цесьця гукаў у госьці.* Сапрынавічы Мсцісл.

ЦЕЦІВА, -ы, *ж.* Цеціва [цяўнік, сцябло ў расліны, караняплодаў]. *На бульбі цеціва вялікыя.* Хвёдараўка Краснап. *Цеціва вялікыя, а морква, як мышыныя хвосьцікі.* Турь'я Чэрык.

ЦЕЧ, *дзеясл.* Цячы, працякаць. *Чайнік наш пычаў цеч — нейдзе дзірка ёсьць.* Слаўнае Мсцісл. *Стріха наша цеч пычыла, відна, мышы пытачылі.* Дзягавічы Крыч.

ЦЕШЧА, -ы, *ж.* Цешча. *Обык зь ім ідзець яго цешча, а жонка наперыдзі з сынам.* Дзеражна Касцюк. *Што ты тут расьсеўся, як у цешчы на хрэзьбінах, пайдзём двору.* Касары Чэрык.

ЦЕШЫЦЦА, *дзеясл.* Цешыцца, радавацца. *Паехаў мой сын ад мяне, і ненькыга мне цешыцца цяперь.* Лешчынка Мсцісл.

ЦЁЛ, -у, *м.* Ацёл. *Піряд цёлым трэба зрабіць адцыркваньня, штоб цялёнык лепі мог ссаць.* Старае Сяло Мсцісл.

ЦЁЛКА, -і, *ж.* Цялушка. *Прыдаў я сваю цёлку за сорак рублёў.* Дзягавічы Крыч.

ЦЁМНА, *прысл.* Цёмна. *Цёмна, але неяк хлеб нымацыў.* Старае Сяло Мсцісл. *Пакуль пазьбірала ўсю дробязь—стала саўсім цёмна.* Пірагова Мсцісл. *Не заступай сьвету, і так тут цёмна.* Касар Чэрык.

ЦЁМНЫЙ, *прым.* Цёмны. *Пыд нашай хатай ёсьць дужа цёмны склеп.* Канічы Касцюк. *Ноч была цёмныя, дарогі ані ня відна.* Цацэнь Аршаншчына.

ЦЁПЛА, *прысл.* Цёпла. *Сяньні цёпла, ны вясну пыходжа.* Забычанне Касцюк. *Цёпла мне спалысь сёньня на пылаціх.* Камароўка Крыч. *Цёпла стала: сьнег асеў, скора з стрэх станіць капыць.* Арцёмаўка Міласл.

ЦЁПЛЫЙ, *прым.* Цёплы. *Ты купіў бы сабе цёплый шалік.* Новы Дзедзін Міласл. *Цёплыя кучма ў цябе.* Хвёдараўка Краснап. *Выда ў гляку ат сонца стала цёплыя.* Вародзькава Міласл.

ЦЁРЛА, -а, *н.* Цёрла, макацёр. *У цёрлі пякуцца пірагі.* Пацкава Мсцісл. *Маці сьпякла хлеб у цёрлі.* Дзягавічы Крыч. *Ныскрабыла трошкі жыру з цёрла.* Пірагова Мсцісл.

ЦЁРЛІК, -а, *м.* Скрынка-кармушка. *Насыпаў карові цёрлік резі, дык іна ўсю пад ногі вывірнула. Прынясі з хліва цёрлік, нада мякіны зыпарыць каровым.* Тур'я Чэрык.

ЦЁТКА, -і, *ж.* 1. Цётка, сястра бацькі або мацеры. *Ціха, сынок, ня плач! Мы паедзім з табою ў госьцікі да цёткі, а яе ня возьмем. Цётка табе дасьць гасьцінца.* Вярба Расиян. 2. Жанчына. *Мама, там нейкыя цётка прышла, цябе пытаіць.* Касар Чэрык. 3. Скулка. *Цётка ны руцэ села ды надта баліць.* Палуж Краснап.

ЦІ, *злучн., часц.* Ці, або. *Ці я, ці ён, хто-нібудзь з нас прідзіць.* Арцёмаўка Міласл. *Ты пойдзіш сяньня ў вучылішча ці не?* Канічы Касцюк. *Ці ўбачу я калі сваю бацькаўшчыну ці не?* Старае Сяло Мсцісл.

ЦІАТР, -а, *м.* Тэатр. *Што мне там за анцірес у ціатрі, ужу луччы ны вічарінку схажу.* Арцёмаўка Міласл.

ЦІГАЦЦА, *дзеясл.* 1. Цягацца, валачыцца, хадзіць без справы. *Хата згарела, усе пыгарела, прідзіцца яму пы людзях з торбыю цігацца.* Арцёмаўка Міласл. *Мой Міхась цігаіцца, як быглай, а дзелыць нічога ня хочыць.* Добрае Мсцісл. 2. Цягацца, спаборнічаць. *Куды табе са мною ці-*

*гацца, ты ж такей здохлый, нядужый.* Брылёўка Краснап.

ЦІГАЦЬ, *дзеясл.* Цягаць, валачыць. *За дзень я так зымарылась, што ледзь ногі цігаю.* Маляцічы Крыч. *Вешна ён с сынам— усюдых зы сабой цігаіць.* Слаўнае Мсцісл.

ЦІГБА, -ы, *ж.* 1. Барацьба. *Між хлыпцамі цігба зынілась — хто каго пабориіць.* Маластоўка Краснап. 2. Цеганіна ў судах. *У Радзівона з Мікітам цігба ўжо каторы год ідзець зы мяжу, то адзін атсудзіць, то другей.* Залачэўка Краснап.

ЦІГРА, -ы, *ж. заал.* Тыгр. *Цігра — ета быльшая пылысатыя кошка, у нас іна ня водзіцца.* Бяседавічы Хоцім. *Я быў у зьвярынцу, дык бачыў там льва і цігру.* Лешчынка Мсцісл.

ЦІЖАЛО, *прысл.* Цяжка. *Вольгі ціжало жыць.* Іванаўка Хоцім. *Ціжало, ні падніму адзін.* Маркаўка Хоцім.

ЦІЖАР, -у, *м.* Цяжар. *Ны заводах бальшыя ціжары пыдымаюць ні рукамі, а машынамі.* Сохана Мсцісл. *Ад ціжару аж лаўкі гнуцца.* Касар Чэрык.

ЦІКАВА, *прысл.* Цікава. *Цікава ны яго пыглядзець якей ён стаў.* Пабкі Расням. *Сьвітка пашыта цікава.* Камароўка Крыч.

ЦІКАВЫЙ, *прым.* Цікавы. *Цікавы ён чылавек: усё хоча ведыць, усяго даходзіць.* Дзягавічы Крыч. *Я чытаў дужа цікавыю кнігу.* Ушакі Чэрык. *Цікавыя твыя пыднявесьніца.* Людагошч Мсцісл.

ЦІЛЁНЫК, -нка, *м.* Цялё. *Карова 'блізала цілёнка.* Паўлавічы Клім.

ЦІЛІГРАФНЫЙ, *прым.* Тэлеграфны. *У нас ны мяжы ікраз стаіць цілігрфнэй стоўп.* Парадзіна Мсцісл.

ЦІЛІПАЦЬ, *дзеясл.* Чэрпаць лыжкай яду [пялёскаць, пялёхаць]. *Цілілай ты ўжу скарей, ато есьць, як ніжывэй.* Арцёмаўка Міласл.

ЦІЛЬПУШОК, -шка, *м.* Калодка, кароткі адрэзак бервяна. *Пышчыпай тый цільпушок ны паттопу, ён сухей, дык будзя добра гарэць.* Куркаўшчына Мсцісл.

ЦІЛЯПЕНЬ, -пня, *м.* Тоўсты чалавек. *Сколькі ён весіць? Верна, пудоў пяць: цілялень ціляпнём выглідаіць.* Слаўнае Мсцісл.

ЦІЛЯ́ЦІНА, -ы, *ж.* Цяляціна. *Ціляціну прынясьлі, ці будзем брацъ?* Мсціслаў.

ЦІМО́Х, -а, *м.* Уласнае імя Цімох. *Цімох зладзіў з купцом.* Палуж Краснап.

ЦІНЯЦІЦЦА, *дзеясл.* Скупіцца, быць скупым. *Увесь свой век ціняціўся, есьці сабе шкадуваў і памёр у старцах.* Сутокі Мсцісл.

ЦІПЛЁНЫК, -нка, *м.* Курanё. *Ціплёнык адбіўся ад курыцы ды ўсё ціўкыя.* Канахоўка Клім. *Наша квакуха вывіла толькі сем ціплёнкуў.* Бяседавічы Хоцім.

ЦІПЛЯ́НІШЧА, -а, *н.* Вогнішча, месца для вогнішча. *Дрэнныя места выбралі ныд ціплянішча — нейдзе й сесьці.* Бардзіч Краснап.

ЦІПЫЦІНЬ, -цьня, *м.* Хвароба ў курыцы — палёт на языку. *Нейкі ціпыцінь прычапіўся ны язык.* Хвёдараўка Краснап.

ЦІРАЗ, *прыназ.* Цераз. *Пірялезь ціраз прясла і дыстань яблыка, вунь ляжыць.* Гарадзецкая Краснап.

ЦІРАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Церануць, шаргануць. *Ціранў сернічку, а йна ні зыгарэлыся.* Палуж Краснап.

ЦІРІЗ, ціряз, *прыназ.* Цераз, праз. *Ціріз ету багну ні пройдзіш.* Ляхі Чэрык. *Ціряз речку пылажылі гібкае бірвяно.* Шыркі Расням.

ЦІСАЦЬ, *дзеясл.* Часаць, абчэсваць. *Дос табе ўжо цісаць ета бірвяно, кладзі, ато мы й вінца ні паложым да сьніданьня.* Шамава Мсцісл.

ЦІСКА, *прысл.* Цесна, туга. *Ціска вузёл зывізаў.* Хвёдараўка Краснап.

ЦІСКІ, -оў, *мн. л.* Пастка. *Ціскі злавілі мыш.* Хвёдараўка Краснап.

ЦІСКЫЦЦА, *дзеясл.* Ціскацца, таўчыся ў натоўпе. *Нільзя было прайціць у народный дом, дужа пёрлісь усі, дык нам ныдаела там ціскыцца ў таўпе, мы ўзялі ды пашлі двору.* Арцёмаўка Міласл.

ЦІСНУВАТЫЙ, *прым.* Цеснаваты, трохі цесны. *Казырь-то новый, ды ціснуват, ны гылаву ня лезіць.* Юзафоўка Хоцім.

ЦІСНУЦЬ, *дзеясл.* Ціснуць, душыць. *Нарінуўся ён ны мяне ўсім сваім целым і дывай ціснуць.* Слаўнае Мсцісл.

ЦІСОВЫЙ, *прым.* Цісавы, зроблены з цісу. *У яго калёсы цісовыя.* Івоны Мсцісл.

ЦІСЬЦЯ́НЫЙ, *прым.* [Ацеслівы], недапечаны хлеб. *Ні вынімай хлеб з печы, ніхай пысядзіць яшчэ, ато будзіць цісьцяный.* Арцёмаўка Міласл.

ЦІТРАДКА, -і, *ж.* Сшытак. *У яго тыкая цітрадка маліцькыя, сам з бумагі шшыў, дык ён усё ў яе запісываіць.* Арцёмаўка Міласл.

ЦІЎКЫНЬНЯ, -я, *н.* Ціўканне, піск кураняці. *Во ныдаела мне ціўкыньня етыга піскленка; пыціряў квакуху, дык крычыць тут целыя раньня.* Арцёмаўка Міласл.

ЦІЎЦЯ, -і, *ж. заал.* Назва птушкі. *У ціўці яйцы маленькія, серынькія, як у вірыб'я. У лесі пы дубровых гнязьдзечка ўе.* Хвёдараўка Краснап.

ЦІХ, -а, *м.* Тыф. *Ціх пы дзяреўні пашоў, у кожнай пасьці хаці хварэюць на ціх.* Трубільня Краснап.

ЦІХА, *прысл.* 1. Ціха, паціху. *Сядзеў ён ціха, пакуль матку ні ўбачыў, а тады пычаў плакыць.* Хоцімск. 2. Згодна, у згодзе. *Ватроўкі ніколі ні жывуць ціха: усё сваруцца.* Краснаполле. 3. Памалу, ціхім ходам. *Сьпірша конь ішоў ціха, а тады кылі пыляціць наўскыч, дык я чуць ні ўпаў.* Слаўнае Мсцісл.

ЦІХАМІРНА, *прысл.* Ціха, спакойна. *Дзеці сядзелі ціхамірна, глядзелі бабі ў рот і слухылі казку.* Арцёмаўка Міласл.

ЦІХІЙ, *прым.* Ціхі. *Ціхі ветрык павівая.* Барысавічы Клім. *Пагода ціхыя, дык сена ня сохня без ветру.* Дзягавічы Крыч.

ЦІХОН, -а, *м.* Уласнае імя Ціхан. *Васілёў Ціхон дык ныстыяшчый абдувала.* Дзіснакіта Мсцісл.

ЦІХУ, *прысл.* Ціха, цыц. *Дзеці, ціху вы там! Раскрычаліся на ўсю хату.* Палуж Краснап.

ЦІХЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Ціхасць, лагоднасць. *Етыга хлыпца згубіць яго хыракцір,*

*ціхысьць яго. Ён жа такей, што абругай яго нізавошта, дык ён табе слова ні скажыць ныэад. Дужа ўжу пакорный.* Арцёмаўка Міласл.

ЦІЦІВА́, -ы, *ж.* Цеціва, сцябло ў караняплодаў. *Ціціва ў бурякоў расьцець вялікыя, німаведыма якія будуць буракі.* Іванаўка Хоцім.

ЦІЦЮ́ХА, -і, *ж.* Ліхарадка [трасца]. *Ды майго ціцюха прівізалысь, як ноч, дык і трясець, спасу німа.* Дзягавічы Крыч.

ЦІЦЯРЛЮ́К, -а, *м. заал.* Цецярук. *Ны нашый пыласе раніцай сядзеў ціцярлюк, з лесу пріляцеў.* Лешчынка Мсцісл. *Мікылай у лесі спыймаў ціцярлюка — у яго крыло падбіта, дык ён літаць ні можыць.* Высокі Бор Краснап.

ЦІШЫНЯ́, -і, *ж.* 1. Цішыня. *Цішыня тыкая, што й былка ні зварухнецца.* Касар Чэрык. 2. Спакой. *Раньшы ўсяго было: і сварыліся, і біліся а січас цішыня — ні сваруцца болі.* Залесавічы Крыч.

ЦІШЫЦЬ, *дзеясл.* Сцішацца, супакойвацца. *Цішыця вы, дзеці, зымаўчыця хуць на хвіліну, усьміру вам німа.* Палуж Краснап.

ЦКЫВАЦЬ, *дзеясл.* Цкаваць. *Я йшоў і яго ні чыпаў, а ён мяне сыбакымі стаў цкываць.* Палуж Краснап.

ЦМОК, -а, *м.* Цмок, дракон, змей. *Сьвяты Юрый забіў цмока, што людзей еў.* Цацэнь Аршаншчына. *А, знаць, маё гора — любімыя ў бога, ‖ Зычапіла цмока зы крутыя рогі.* З нар. песні, М. Г. 154.

ЦМО́КЫЦЬ, *дзеясл.* Цмокаць. *Ні цмокый ты ны кыня, а зыдай яму пугі, ато шлёпыіць губамі, а карысьці ніякій.* Арцёмаўка Міласл.

ЦМЫГЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Пішчаць паціху. *Сучка цмыгыя пыд дзьвярымі — есьць хочыць.* Хвёдараўка Краснап. 2. Шукаць. *Хацеў што-нібудзь зьесьць, цмыгыў, цмыгыў — нічога ні нашоў.* Слаўнае Мсцісл.

ЦМЫКТАЦЬ, *дзеясл.* Смактаць. *Дзед як вазьмець цмыктаць сваю піпку зраня, дык ды абеду цмокча і ні вынімаіць з зубоў.* Хвёдараўка Краснап.

ЦОКЫНЬНЯ, -я, *н.* Пацалункі. *Ныдаела ўжу глядзець на іх цокыньня, усё ні ныцалуюцца.* Арцёмаўка Міласл.

ЦОП, *выкл.* Хоп. *Пятрок падышоў ды цоп яго зы плячо.* Канахоўка Клім. *Сёмка цоп, цоп — і ўзьлез ны стряху.* Палуж Краснап.

ЦО́ПНУЦЬ, *дзеясл.* Шлёпнуць, злёгку выцяць. *Цопні яго пы патыліцы, ніхай ня лезіць туды.* Горкі Краснап.

ЦО́ПУХ, -а, *м.* Месца над чалеснікам печы, дзе ідзе дух. *Надзень жупан на вілышнік і пыстаў над цопухым ды атчыні печку, дык скора прасохніць.* Арцёмаўка Міласл.

ЦОТ, -а, *м.* Цот, парны лік. *Дывайця гуляць у цот і лішку.* Палуж Краснап. *Ці цот, ці лішка, атгыдай.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ЦУБАРКА, -і, *ж.* Вядро з бляхі. *Вазьмі цубарку ды засілі вады з рэчкі.* Хоцімск. *У цубаркі стаіць выда.* Іванаўка Хоцім.

ЦУБУ́К, -а, *м.* Цыбук. *Цубук нада прачысьціць, ато ні цягнець дым.* Крычаў. *Дзядзька выніў з піпкі цубук.* Пацкава Мсцісл.

ЦУБУ́ЛЯ, -і, *ж. бат.* Цыбуля. *Цубуля ў нас сёлета пырысла быльшая.* Канава Хоцім. *Я прыдыла пяць нізык цубулі.* Малюшын Мсцісл.

ЦУГА́К, -а, *м.* Сугак, спіца. *Дзед надзеў лапыць на цугакі.* Пацкава Мсцісл.

ЦУГУ́Н, -а, *м.* Чыгун, гаршчок з чыгуна. *Цугун наш трэба пачыніць, бо ён цячэць.* Вярбоўка Расчян. *Курёнык у цугун улез і ўтапіўсь, а квакуха і ня відзіць.* Барысавічы Клім. *Выймі з печы цугун з вадою і пыстаў яго ны загнет.* Асмолавічы Мсцісл.

ЦУГУНО́К, -нка, *м.* Памянш. ад цугун. *Устаў бобу ў цугунку ў печ, ніхай парыцца.* Пірагова Мсцісл.

ЦУ́КЕР, -кру, *м.* Цукар. *Цукер у нас ужо ўвесь, паедзіш у горыд, дык купі там хунты два.* Серчыцы Краснап.

ЦУКЕ́РКА, -і, *ж.* Цукерка. *Прывязі мне хыця адну цукерку.* Ушакі Чэрык. *Ні дывай дзіцёнку цукерык, до зь яго будзя.* Палуж Краснап.

ЦУЛУВАНЬНЯ, -я, *н.* Пацалункі. *Як пычануць цулуваньня, дык пры людзях цокыюць, ні ныцалуюцца ніяк.* Журбін Бялынкав.

ЦУЛУВАЦЦА, *дзеясл.* Цалавацца. *Яна любіць цулувацца з хлыпцамі.* Залачова Мсцісл.

ЦУ́НІ, -іў, *мн. л.* Лапці, сплеценыя з вяровак [або звязаныя з нітак]. *Абувай цуні ды й атправляйся.* Лютня Краснап.

ЦУП, *выкл.* 1. Цуц, туп. *Конь ішоў, ішоў, а тады цуп і стаў!* Хвёдараўка Краснап. 2. Пок, хлоп. *Сядзеў я пыд яблынай, а яблык цуп ды пряма мне піряд носым.* Буліна Касцюк.

ЦУ́ПЫЦЬ, *дзеясл.* Падаць. *Яблыкі цупыюць ды цупыюць з яблыні.* Глупікі Крыч.

ЦУРА́, -ы, *ж.* [Цура], яда з хлеба і вады. *Пысядзі-ка ты на цурэ, дык станіш, як шчэпка.* Буліна Касцюк.

ЦУРАЦЦА, *дзеясл.* Цурацца. *Усі родныя мае мяне цураюцца, бацька-маці зы дачку ні маюць пысьля таго, як радзіўсь у мяне дзіцёнык.* Старае Сяло Мсцісл.

ЦУРБА́ЛКА, -і, *ж.* Тоўстае сцябло травы. *Коні паелі добрую траву, а зысталіся адны цурбалкі.* Слаўнае Мсцісл.

ЦУРБАНЫ́ -оў, *мн. л.* [Цура], хлеб, накрышаны ў ваду і заліты алеем. *Хызяйка звала есьць цурбаны.* Куляшоўка Клім.

ЦУРБО́НІЦЬ, *дзеясл.* Ліць, паліваць з шумам. *Ціха лі, ні цурбонь так, ато разьліваіш.* Палуж Краснап.

ЦУ́РБЫЛКА, -і, *ж.* [Тоўстае сцябло травы], абрубак рукі або нагі, кукса. *Атрезылі ў бальніцы адну руку па локыць, так з цурбылкай цяпер і ходзіць.* Старае Сяло Мсцісл.

ЦУРГАНЫ́, -оў, *мн. л.* [Цура], хлеб, пакрышаны ў ваду і заліты алеем. *Ты хочыш есьць, ды ў мяне нічога німа; калі хочыш, зьдзелый сабе цурганоў.* Гібалы Касцюк. *Ні было чаго есьць, дык мы цурганы зьдзелылі і наеліся.* Горкі Краснап.

ЦУРКОМ, *прысл.* Цурком. *Пот зь яго цурком цурчыць, так ужо ён стараецца, работыць.* Сохана Мсцісл.

ЦУРАВАЦЬ, *дзеясл.* Цыраваць. *У мяне ны пітах пырваліся чулкі, нада было цурувaць, дык лянюся.* Слаўнае Мсцісл. *Нада чулкі цурувaць, ато ўжу дзіркі бальшыя падзелыліcь.* Тур'я Чэрык.

ЦУРУЛЬНІК, -а, *м.* Цырульнік. *Зайдзі ты к цурульніку ды абстрыгі выласы, ато кучма кучмой.* Пірагова Мсцісл. *Схадзі к цырульніку пастрыгіся.* Кокатава Мсцісл.

ЦУРУЛЬНЯ, -і, *ж.* Цырульня. *Як буду ў горыдзе — зайду ў цурульню абстрыгуся.* Пірагова Мсцісл.

ЦУРЧЭЦЬ, *дзеясл.* Цурчаць, цячы цурком. *Ішоў буйный дождж, ну і пычало цурчэць з стрех.* Слаўнае Мсцісл.

ЦЫБАЛЫ, -ыў, *мн. л.* Тоўстыя ногі. *Ого, цыбалы якія! Дывай сікану пы тваіх цыбылах.* Хвёдараўка Краснап.

ЦЫБАРКА, -і, *ж.* Вядро з бляхі. *Дзядзька, дай цыбаркі кыня ныпаіць.* Горня Хоцім. *Сыбралі грошы на цыбарку, а зьдзелыць ні зьдзелылі.* Касцюковічы.

ЦЫБАСТЫЙ, *прым.* Цыбаты. *Глядзі, йкая цыбастыя баба пышла, як вірста.* Хоцімск.

ЦЫБАТЫЙ, *прым.* Цыбаты, тонкі, высокі чалавек. *Гаўрiла цыбатый пайшоў, ён як ідзе ў хату, дык нагінаіцца, дужа вісокі.* Б. Хутары Краснап.

ЦЫБУК, -а, *м.* Цыбук. *Дзед зьдзелыў цыбук у пiпку з вішні.* Арцёмаўка Міласл. *Трэба прачысьціць цыбук, ато ні цягніць.* Мсціслаў. *Нада вырызаць цыбук у пiпку.* Хвёдараўка Краснап.

ЦЫБУЛЬКА -і, *ж.* Памянш. ад цыбуля. *Укрышы цыбулькі ды залі алеем, дык будзя смашней.* Касар Чэрык.

ЦЫБУЛЯ, -і, *ж. бат.* Цыбуля. *Зыгрібла гряды і пысадзіла цыбулю й чыснаку.* Арцёмаўка Міласл. *Сёліта цыбуля ні ўрадзіла, цыбылінкі тыя, як гарох.* Дзягавічы Крыч. *Мы пысадзілі тры грады цыбулі.* Шумячы.

ЦЫГАН, -а, *м.* Цыган. *Цыган мяне на етым кані абшукаў.* Сохана Мсцісл. *Цыгані распусьцілі свае былагоны і начуюць.* Касцюковічы. *Цыгані ўжо рысьпялі свае шатры.* Палуж Краснап.

ЦЫГАНІЦЬ, *дзеясл.* Прасіць неадчэпна. *Ці ёсьць у яго што, ці німа, усёдно ён будзе цыганіць, пакуль ня выцыганіць.* Хвёдараўка Краснап.

ЦЫГАНКА, -і, *ж.* Цыганка. *Што ж цыганкым дзелаць? Работыць яны ня ўмеюць і ня хочуць, дык во ходзяць пы сялу ды кылантырюць.* Дубеец Касцюк.

ЦЫГАНКІ, -нык, *мн. л.* Бульба, зваранaя і падпечаная ў тоўчаным ільняным насенні. *Я дужа люблю цыганкі, калі яны добра пыджаріны.* Восаў Краснап.

ЦЫГАНОК, -нка, *м.* Ножык-складанчык з драўляным чаранком. *Купіў сабе цыганок, ды надта мяккі — ня рэжыць.* Хвёдараўка Краснап.

ЦЫГАНСКІЙ, *прым.* Цыганскі. *Скача, як цыганскі конь.* Дзягавічы Крыч. *Вун цыганскыя табырышча.* Хвёдараўка Краснап.

ЦЫГАЦЬ, *дзеясл.* Пішчаць. *Пясклёнык цыгаець.* Пацэнь Арш.

ЦЫГЛЯНЫЙ, *прым.* Цагляны. *Кыхляныя грубка лутчы грееець, чым цыгляныя.* Канічы Касцюк.

ЦЫКОРЫЙ, -я, *м. бат.* Цыкорыя. *Цыкорый расьцецъ у нас у гародах і так на полі, лі дарог, цьвіцець сінінькім цьветам.* Пірагова Мсцісл.

ЦЫКЫЦЬ, *дзеясл.* Сыкаць. *Што ты ны яго цыкыіш, што ён табе пыдданы? Хочыць — дзелыіць, хочыць — не, ты яго ні прімусіш.* Дзянісавічы Навазыбк.

ЦЫЛУВАЦЦА, *дзеясл.* Цалавацца. *Абшчыпіліся і цалуюцца.* Ушакі Чэрык.

ЦЫЛУВАЦЬ, *дзеясл.* Цалаваць. *Іна ўзіла дзіцёнка на рукі і дывай яго цылуваць.* Нізькі Касцюк. *Дурні, сваты дурні,— ‖ Ды заехылі ў гумны; Асеці чалом далі.‖ Сьвіньню цылувалі.* З нар. песні, М. Г. 40.

ЦЫЛЫЙ, *прым.* Цэлы. *Сёліта мы насыпылі мякіны і атарі цылыя засецьця.* Бяседавічы Хоцім.

ЦЫЛЫВАЦЦА, *дзеясл.* Цалавацца. *У цябе яшчэ мылако ны губах ні абсохла, а ты ўжо цылывацца лезіш.* Слаўнае Мсцісл.

ЦЫЛЯЦЬ, *дзеясл.* Цаляць, ладзіцца. *Ен так і цыляў, каб цябе з двыра сыгнаць.* Кокатава Мсцісл.

ЦЫНА, -ы. *ж,* Цана, кошт. *Цына стала ніжыцца на скот.* Палуж Краснап. *На мой пыгляд, дык етый конь ня стоіць такей цаны.* Арцёмаўка Міласл.

ЦЫНТАЎРА, -ы, *ж. бат.* Цвінтарэй. *Цынтаўру бяруць ат жывата.* Хвёдараўка Краснап. *Зывары цынтаўрыі і пі пы стыкану тры разы ў дзень.* Сохана Мсцісл.

ЦЫПА, -ы, *ж.* Курыца. *Пыкармі ты сваю цыпу, ато іўца ні зьнясець.* Ушакі Чэрык.

ЦЫПАЧКІ, -ыў, *мн. л.* Пыпачкі, пальцы ног. *Антось падышоў к нам на цыпычках, што ніхто і ні пачуў.* Дзягавічы Крыч.

ЦЫПІЛЬНО, -а, *н.* Цапільна. *Цыпільно ў цэпа новыя, дык у руку муліць.* Пуханава Расням. *Пацішы бі, бо ета цыпільно треснутыя, дык зломіцца.* Бяседавічы Хоцім. *Бічук прывязвыіцца к цыпільну.* Бялішчына Мсцісл.

ЦЫПКІ, -аў, *мн. л.* Цыпкі, патрэсканая скура ад гразі і ветру. *У яго ўсе ногі ў цыпках.* Кокатава Мсцісл. *Уй, як быляць цыпкі.* Зоры Чэрык. *Цыпкі набіў — быляць цяпер ногі.* Хвёдараўка Краснап.

ЦЫПЛЁНЫК, -нка, *м.* Куранё. *Квакуха вывіла дзесіць цыплёнкуў.* Арцёмаўка Міласл.

ЦЫПУШКІ, -ыў, *мн. л.* Цыпушкі, спосаб сядзення, падагнуўшы пад сябе ногі. *Ні сядзі на цыпушках, ато пад грудзьмі зыбаліць.* Бабынавічы Мсцісл.

ЦЫРКАЦЬ, *дзеясл.* 1. Цыркаць, даіць. *Мама цыркыя карову, зараз мылыка прынясець.* Паходавічы Чэрык. *Карову йшчэ нада іціць цыркыць.* Гарманава Краснап. 2. Цвыркаць, трашчаць, крычаць. *Цыркун за печкый цыркыя.* Палуж Краснап.

ЦЫРКНУЦЬ, *дзеясл.* Падаіць. *Нада цыркнуць карову ды ныпаіць мылаком цялёнка.* Слаўнае Мсцісл.

ЦЫРКУЛЬ, -я, *м.* Цыркуль. *Цыркуль скрыўлiны, ім ні прывядзеш правільна акружыны.* Шарэйкі Касцюк.

ЦЫРКУН, -а, *м. заал.* Цыркун, цвыркун. *Цыркун цыркыя за печчу.* Хвёдараўка Краснап. *У нашый хаці цыркун ні даець жыцьця, усё ўрэмя цыркыіць.* Канічы Касцюк. *Цыркуны цыркуюць у лазьні.* Зоры Чэрык. *У новый хаці зьявяліся ў маху цыркуны, трішчаць усю ноч і спаць ні даюць.* Пацкава Мсцісл.

ЦЫРКЫНЬНЯ, -я, *н.* Даенне. *Маей Вольгі дужа цяжка даецца цыркыньня кароў.* Лешчынка Мсцісл.

ЦЫРКЫЦЬ, *дзеясл.* 1. Цыркаць, даіць. *Матка пашла цыркыць кароў.* Лешчынка Мсцісл. *Матка пышла карову цыркыць, січас мылыка прінясець.* Арцёмаўка Міласл. 2. Цвыркаць, цвірчаць. *Запечный вылавей пысяліўсь у нас у лазьні, цыркыіць што ёсьць сілы.* Башары Расням.

ЦЫРУЛЬНІК, -а, *м.* Цырульнік. *Цырульнік добря стрыгець.* Шумячы.

ЦЫРУЛЬНЯ, -і, *ж.* Цырульня. *У горыдзі цырульня быльшая, там шэсць стрігунцоў работыіць.* Боханы Смал.

ЦЫРЯМОНІЦЦА, *дзеясл.* Цырымоніцца. *Во ўжо цырямоніцца, нічога ня зьдзелыіць, штоб ні цырямоніцца.* Асмолавічы Мсцісл.

ЦЫРЯМОННІЦА, -ы, *ж.* Ганарыстая цырымоністая жанчына. *Іна тыкая цырямонніца, ня можыць ні аднаго разу зайці к сваёй радне.* Слаўнае Мсцісл.

ЦЫЎКЫЦЬ, *дзеясл.* Ціўкаць. *Птушка цыўкыя, відна, птушыняткі ёсьць.* Хвёдараўка Краснап. *Ціпіняткі павылуплівылісь із яец і цыўкыюць пыд квакухую.* Сохана Мсцісл.

ЦЫХРА, -ы, *ж.* Лічба. *Ікая ета тут цыхра на етых грышах, ці тры, ці пяць, нешта ні рызьбяру?* Арцёмаўка Міласл.

ЦЫЦ, *выкл.* Цыц. *Сціхні, дзеці, цыц! Чаго разыйшліся?* Гусарка Клім. *Цыц, дзетка, ні плач, січас курычка кока зьнясець, дык я табе аддам!* Арцёмаўка Міласл.

ЦЫЦКА, -і, ж. Цыцка, грудзі. *Дзіцёнка адлучыла ат цыцкі; ужо пычаў быў забываць, ды пылажыла спаць с сабою, а ён узяў ды высcаў.* Камароўка Крыч. *Цыцкі ў каровы пыкалоліся, быляць, цыркыць ні даецца.* Канахоўка Касцюк.

ЦЫЦОХА, -і, *ж.* Цыцоха, грудастая жанчына. *Дзеўка — цыцоха: цыцок поўна пазуха.* Нашкавічы Мсцісл.

ЦЬВЕРДЗЬ, -і, *ж.* Цвердзь, цвёрдае месца. *Во, цьвердзь дык цьвердзь, што аж дубовы ворчык зламіўся.* Бязводзічы Мсцісл.

ЦЬВЕРДЫЙ, *прым.* Цвёрды. *Я цьвердай яды ні магу жваць, зубоў у мяне німа.* Сохана Мсцісл.

ЦЬВЕРЖ, -ы, *ж.* [Цвердзь], цвёрдае месца. *Тут цьвёрж тыкая, што ні ўшчапіць плугым, хіба пысьля дожджу можна будзець успыхаць.* Палуж Краснап.

ЦЬВЕТ, -у, *м.* 1. Цвет [кветка]. *Якей красівый цьвет ны маку. А во ны папырытніку саўсім німа цьвету.* Арцёмаўка Міласл. *Зябер цьвіцець сінім цьветым.* Дзягавічы Крыч. 2. Колер. *Нешта ня помню, якога цьвету ў яе кохта была; толькі знаю — іна жоўты цьвет ніколі ні носіць.* Арцёмаўка Міласл. 3. Узор. *Ганна красівым цьветам выткала дзяругу.* Куляшоўка Клім.

ЦЬВЕЦІК, -а, *м.* Кветачка. *Сыбачкі — жоўтыя або красныя цьвецікі. Грачыха цьвіцець дробненькімі бела-розавымі цьвецікамі.* Пірагова Мсцісл.

ЦЬВІК, -а, *м.* Цвік. *Я пырваў штаны аб цьвік у сьцяне.* Тур'я Чэрык. *Вазьмі абцугі і выцягні еты цьвік з дзьвярэй, ато ён мішаець.* Сохана Мсцісл.

ЦЬВІЛЬКА, -і, *ж.* Ластавіца, ромбавідны кавалак матэрыі, які ўстаўляецца ў сарочку пад пашкі. *На што ты такея шырокія цьвількі робіш?* Хвёдараўка Краснап. *У сарочку ацталась толькі цьвількі пайшываць.* Касцюковічы.

ЦЬВІСЬЦЬ, *дзеясл.* 1. Цвісці. *Яблуні ўжо цьвісьць пычалі, пчолы ля іх гудуць.* Гарцуеўка Краснап. *Ны каліне пыпушкі бальшэя — скора і цьвісьць будзя.* Парадзіна Мсцісл. *Жыта высыпаіць ужу — скора цьвісьць будзець.* Журбін Бялынкав. *Кылыкалуша ўжо цьвіцець.* Арцёмаўка Міласл. 2. Румянець. *Старуха, а красныя ікая, ягыткі так і цьвітуць, глядзі, што кроў з шчок пырсьніць.* Там жа.

ЦЬВІЦІЦЦА, *дзеясл.* Свіціцца. *У шчэлку цьвіціцца.* Брылёўка Краснап.

ЦЬВЯКЧЭЦЬ, *дзеясл.* Хлюпаць. *Во нываліла масла, аж цьвякчэць стала.* Хвёдараўка Краснап. *Ну ды таго сяньні наліў дождж, што зімля ныбрякла, аж цьвякчыць.* Слаўнае Мсцісл.

ЦЬВЯРОЗЫЙ, *прым.* Цвярозы. *Дзень у дзень п'е, ніколі цьвярозы ня бывае.* Парадзіна Мсцісл. *Цьвярозый век зырікаіцца піць ды толькі ды чаркі, а тады і нысьцібаіцца, як сьвіньня.* Слаўнае Мсцісл. *Ай маць мыя старыя, ‖ Ня бі жаны п'яныя; ‖ Бі жану цьвярозыю ‖ Белыю бярозыю.* З нар. песні, М. Г. 94.

ЦЬВЯРОЗЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Цвярозасць. *Цьвярозысьць розуму можна страціць ня толькі ў пьянстві.* Сохана Мсцісл. *Ліжаў такі пьяный, а як пачуў супрыць сябе гаворкі, ідзе тая цьвярозысьць знайшлася.* Слаўнае Мсцісл.

ЦЬВЯТНІЧОК, -чка, м. Кветнічак. *У нас пірад вокнымі маліңькій цьвятнічок зьдзелын.* Антонаўка Краснап.

ЦЬВЯТНЫЙ, *прым.* Каляровы. *Матка надзела цьвятную спадніцу.* Стары Дзедзін Міласл. *У мяне андрак ні такі цьвятны, як у цябе.* Антонаўка Краснап.

ЦЬВЯТОК, -тка, *м.* Кветка. *Ны гароху бываіць разный цьвяток: і беліңькій, і красніңькій.* Арцёмаўка Міласл. *Глянь, якей прыгожыңькій цьвяток у жыці.* Слабада Крыч.

ЦЬВЯТОЧЫК, -чка, *м.* Кветачка. *Грымахвончыкі ўюцца — розавіңькімі цьвяточ-*

*кымі цьвітуць.* Парадзіна Мсцісл. *Краснінькій цьвяточык расьцець.* Касар Чэрык.

ЦЬМЕНЬ, -і, *ж.* Цемната [цемра]. *Ны дваре тыкая цьмень, што хуць вока выкыль.* Лешчынка Мсцісл.

ЦЬМЕЦЬ, *дзеясл.* [Тлець], дыміцца. *Дровы сырэя, ні гыраць, а толькі цьмеюць.* Сохана Мсцісл.

ЦЬМЯ́НЫЙ, *прым.* Цмяны, цемнаваты, непразрысты. *Ён, як зыгарыць ат сонца, дык робіцца такій цьмяны, акурат, як цыган.* Добрае Мсцісл. *Шкло ў вокных некыя цьмяныя, ніяк ні прамыеш насьвітла.* Антонаўка Краснап.

ЦЭ́БАР, цэ́бір, цэ́быр, -бра, *м.* Цэбар. *Нынасі вады ў цэбар.* Лабаноўка Хоцім. *Цэбар з мякінай вынісла на двор і пыставіла карові.* Лешчынка Мсцісл. *Цэбар рассохся, нада зымачыць яго.* Крычаў. *Янка піў ваду с цэбра.* Роськаў Калінінщчына. *Нынарілі цэбір мякіны, прадзенулі ў вушкі палку і пынясьлі каровым.* Арцёмаўка Міласл. *Налілі повін цэбыр вады.* Бялішчына Мсцісл. *Прынясі мне цэбыр патоўч бульбу.* Слаўнае Мсцісл.

ЦЭ́ВЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад цэўка. *Нытальля, насукай ты мне цэвычак са дзьве.* Цацэнь Аршаншчына.

ЦЭ́ГЛА, -ы, *ж.* Цэгла. *З такой кепскай гліны, ды тыкая ж добрыя цэгла ў іх выходзіць.* Ушакі Чэрык. *Цэгла прасохла, можна апальвыць.* Бялішчына Мсцісл. *Цэглы німа дзе дыстаць, печ рызваліыіцца і ыправіць німа чым.* Макуліна Раснян.

ЦЭ́ДЗІЛКА, -і, *ж.* Цадзілка, кавалак рэдзенькага палатна або сіта, на якое працэджваюць малако. *Паедзім у Клімавічы, дык купім там цэдзілку ны мылако.* Кісялёва Буда Калінінщчына.

ЦЭ́ЛІЦЬ, *дзеясл.* Цэліць, цэліцца. *Хадзіў з ружжом, стаў цэліць у зайца, а тут шасьць яму воўк.* Арцёмаўка Міласл.

ЦЭЛКАВУ́ХА, -і, *ж.* Яечня. *Матка набіла ны скывырадў яец і сьпікла цэлкавуху ны сале.* Студзянец Касцюк.

ЦЭ́ЛЫЙ, *прым.* 1. Цэлы, непабіты. *Во дзіва: стыкан упаў сы стыла і цэлы, ні пабіўся.* Парадзіна Мсцісл. 2. Цэлы, поўны. *Ныцадзіла мылыка цэлый гырлач.* Хвёдараўка Краснап. *Жыбрак нызьбіраў цэлую торбу хлеба.* Белы Камень Бялынкав. *Ныбраў дроў цэлыя бярэмя.* Дубеец Касцюк. 3. Цэлы, увесь. *Дождж ідзець цэлую нядзелю дзень удзень.* Раздзел Мсцісл. *Дзеці нейдзі цэлы дзень гізуюць.* Кокатава Мсцісл. *Э, брат, тут ні адзін каток, а чатыры, цэлы стан патрэбін.* Парадзіна Мсцісл.

ЦЭЛЬ, -і, *ж.* Мэта. *У яго цэль тыкая, штоб у дваре зыстацца сымаму, а брата ў зяці аддаць.* Арцёмаўка Міласл.

ЦЭ́ЛЬНЫЙ, *прым.* 1. Цэлы [поўны]. *Я нылавіў сяньня цэльныя вядро вуюноў.* Хвёдараўка Краснап. *Ныкалупаў ён мне цэльный кухлік мёду.* Пірагова Мсцісл. [2. Цэлы, увесь]. *Цэльный год дыжыдалі мы сына з арміі.* Там жа.

ЦЭ́НТРА, -ы, *ж.* Каўпачок у лямпе. *Зьнімі цэнтру ў лямпі ды абчысьці нагыр.* Крычаў.

ЦЭП, -а, *м.* Цэп. *Бяры цэп ды пыцежы мылаціць.* Машавая Бялынкав. *Добрым цэпам добра і мылаціць.* Пухнава Раснян.

ЦЭ́ПКА, -і, *ж.* Ланцужок. *Кыня нада на цэпкі прівізаць, ато вярёўку парвець.* Арцёмаўка Міласл. *У яго часы й цэпка з золыта.* Палуж Краснап.

ЦЭ́РА, -ы, *ж.* Цэра, сасновы грыб, вываранны і прыгатаваны да высяканьня агню. *Дай-ка кусочак цэры высіч агню.* Лютня Краснап.

ЦЭ́РКВА, -ы, *ж.* Царква. *У Высокім Барку новыя цэрква.* Палуж Краснап.

ЦЭ́РКЫЎ, -ві, *ж.* Царква. *У скрысеньня пайду ў цэркыў у Высокі Бор.* Палуж Краснап.

ЦЭ́ТЛІК, -а, *м.* Цэтлік, пісулька. *Ці ўзяў ты цэтлік у лаўцы, ато біз яго нам тывар ны складзі ні атпусьцяць?* Хвёдараўка Краснап.

ЦЭ́ЎКА, -і, *ж.* 1. Цэўка, шпулька для намотвання нітак. *Я сыткала ўжо тры цэўкі.* Буліна Касцюк. *Я буду ткаць, а ты насучы цэўку.* Крычаў. *Нымытай на цэўку нітак ды ўсадзі ў чаўнок.* Парадзіна Мсцісл. 2. Галень нагі. *Закруці луччы анучу, ато цэўка відна.* Лешчынка Мсцісл. 3. Косць ад локця да кісткі рукі. *Зламаў цэўку ў руцэ.* Камароўка Крыч.

ЦЮ́ГНУЦЬ, *дзеясл.* Выцяць. *Бацька цюгнуў іх разы тры, дык зымыўчалі.* Маластоўка Краснап.

ЦЮКУ́Н, -а, *м.* 1. Агрэст, у якога ягады пакрыты валаскамі. *У нас ў садзе ёсьць некалькі кустоў цюкуну.* Тур'я Чэрык. 2. Арэх. *Тваі цюкуны дужа крэпкія, ні рызаб'еш, ні то што раскусіць.* Там жа.

ЦЮ́ПКІ, -ыў, *мн. л.* Яда, хлеб, накрышаны ў малако. *Маці ныкарміла дзяцей цюпкамі.* Камароўка Краснап.

ЦЮРЕ́МНІК, -а, *м.* Вязень, астрожнік. *Ён жа вечный цюремнік: ні выходзіць, то зы разбой, то зы крадзеж сядзіць.* Трубільня Краснап.

ЦЮРЬМА́, -ы, *ж.* Турма. *Ноччы два арыштанты ўцяклі сь цюрьмы.* Маластоўка Краснап.

ЦЮ́ХАЦЬ, *дзеясл.* Бегчы, ісці. *Цюхаіць усьлед, як шчанё.* Камароўка Крыч.

ЦЮХЦЕ́Й, -я, *м.* [Цюхцяй], ляны, непаваротлівы чалавек. *Во ўжу цюхцей, ног ні падыміць.* Слаўнае Мсцісл.

ЦЮ́ХЦЯ, -і, *ж.* Цюхцяй. *Пілінка — цюхця нейкыя, ні паверніш нікуды.* Палуж Краснап.

ЦЮ́ХЫЦЬ, *дзеясл.* Цюхаць, бегчы трушком. *Во нябошчык старык быў Адам — шэсьдзісят вёрст цюхыць, і хоць бы што яму.* Добрае Мсцісл.

ЦЮЦЮ́Н, -а, *м.* Тытунь, табак, махорка. *Вось штоб цябе агонь, цюцюн увесь пакурыў і ны панюх німа. Дай твайго закурыць.* Ходасы Мсцісл.

ЦЯГНІ́К, -а, *м.* Цягнік. *Цягнік прышоў у пяць гадзін раніцы.* Кажамякіна Краснап.

ЦЯГНУ́ЦЦА, *дзеясл.* 1. Цягнуцца. *Пыглядзі-ка, што ў цябе адзаду цягніцца.*

Гарбавічы Касцюк. 2. Іcці памалу. *Ідзі хутчэй, ато цягнісься, як смоўж.* Арцёмаўка Міласл.

ЦЯГНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Цягнуць. *Слыбасілівый мой канёк, цягнуць ані ня можа.* Хвёдараўка Краснап. *Цягні ету галіну к цяплу — пылумаіш, дык згарыць.* Маляцічы Крыч.

ЦЯГУ́ЧЫЙ, *прым.* 1. Дужы, цягавіты. *Етый конь дужа трывалый і цягучый: ты яго два дні ні кармі, дык на ім ня відна — усё роўна круглый і вязець.* Арцёмаўка Міласл. 2. Жывучы. *Цягучый чылавек твой бацька — доўга жывець.* Хвёдараўка Краснап.

ЦЯ́ЖБА, -ы, *ж.* Цяжар. *Нагрузіў воз, што трыйня чуць ня трэснула ад цяжбы.* Бязводзічы Мсцісл.

ЦЯ́ЖКА, *прысл.* Цяжка. *Так цяжка было падымаць, чуць шлуньня свае ні пыдырваў.* Гібалы Касцюк. *Ой, як цяжка жыць на сьвеце.* Лешчынка Мсцісл. *Я аббегся — дыхаць цяжка.* Хвёдараўка Краснап.

ЦЯ́ЖКІЙ, *прым.* Цяжкі. *Цяжкі лёс спыткаў мяне ў жыцьці.* Добрае Мсцісл. *Цяжкыя хвароба ў яго, німаведыма ці ўстаніць.* Ушакі Чэрык.

ЦЯЖКІ́, -оў, *мн. л.* Вяроўкі ў сахі, пры дапамозе якіх рэгулююць глыбіню баразны (падцягваючы ці апускаючы іх). *Пырваліся цяжкі ў мяне ў сасе.* Брылёўка Краснап.

ЦЯ́ЖЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Цяжар. *Еткыя цяжысьць ны калёсых, дзіва што яны скрыпяць.* Лешчынка Мсцісл. *Цяжысьць на сэрцы лігла, проста дзівацца недзе.* Антонаўка Краснап.

ЦЯКЧЫ́, цеч, *дзеясл.* Цячы. *Прадзелый тут равок, дык выда будзя цякчы туды.* Смольская Буда Бялынкав. *С-пыд гары цякець равок.* Канічы Касцюк. *Наша вядро цякець, покуль прынясеш, дык пыўвідра выцякець.* Арцёмаўка Міласл.

ЦЯКУ́Н, -а, *м.* Цякун, прамыты пясок. *Кыля рэчкі шмат цякуну.* Нешухоўка Чав. *Ны дарозі адзін цякун, каткі хываюцца.* Хвёдараўка Краснап.

ЦЯЛЕ́ГА, -і, *ж.* Калёсы, мажары. *Зыпрягі кыня ў цялегу.* Крывы Лес Шумяц.

ЦЯЛЁНЫК, -нка, *м.* Цялё. *Цялёнык наш ужу адужыў.* Слабада Крыч. *Мы свайго цялёнка зарэзалі.* Парадзіна Мсцісл. *Етыга цялёнка гудуваць нельга — ён нейкій карузлый.* Белы Камень Бялынкав.

ЦЯЛЁПЫК, -пка, *м.* Целяпень [таўстун]. *Ну й цялёпык ты, проста біда.* Горкі Краснап.

ЦЯЛІ́ЦЦА, *дзеясл.* Цяліцца. *Наша карова летась цялілася, а сёлета ялайка.* Старае Сяло Мсцісл.

ЦЯЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* Цяліць. *Карова цяліла быську.* Палуж Краснап. *Цялілысь кароўка ды бурэнькыя, ‖ Цяліла бычка ды рыжэнькыга.* З нар. песні, М. Г. 122.

ЦЯЛЬПУ́Х, -а, *м.* 1. Кароткі тоўсты адрэзак, калодка. *Рыскалі етый цяльпук.* Маляцічы Крыч. *Пыстаў цяльпух пад ногі, будзець луччы сядзець.* Канахоўка Касцюк. *Дай ты етый цяльпух разрежым, ды я пыкалю яго на дровы.* Арцёмаўка Міласл. 2. Непаваротлівы тоўсты чалавек. *Во цяльпух! Як сеў, дык і ні падымічца.* Парадзіна Мсцісл.

ЦЯЛЮ́Х, *выкл.* Бух, боўць. *Я скарэй цялюх у ваду!* Палуж Краснап.

ЦЯМІ́СТЫЙ, *прым.* Цямкі [памятлівы]. *Знайдзіць ён дарогу нызад і адзін, ён цямістый.* Арцёмаўка Міласл.

ЦЯ́МІЦЬ, *дзеясл.* Цяміць [разумець, помніць]. *Ны мяне нейкае аклумленьня найшло — гляджу і нічога ні цямлю.* Парадзіна Мсцісл.

ЦЯ́МКІЙ, *прым.* Цямкі [памятлівы]. *І цямкі ты хлопец, паслухыў раз, і ўсё запомніў.* Лешчынка Мсцісл.

ЦЯ́МНІЦЬ, *дзеясл.* Цямніць, зацямняць. *Атыйдзі ты ат лампы, ато ты цямніш сабою.* Слаўнае Мсцісл.

ЦЯ́МНУЦЬ, *дзеясл.* Прапасці. *Каб цябе цямнула з тваёю працаю.* Тур'я Чэрык.

ЦЯНЁК, цяньку́, *м.* Цянёк, цень. *Пыстаў кыня ў цянёк, каб ні так пякло сонца.* Гібалы Касцюк. *Добра ў лесі ў гарачы дзень — у цяньку такая прахалода.* Ушакі Чэрык. *Ідзі пад дуб у цянёк, там трохі адыхнеш.* Ташна Касцюк.

ЦЯНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Цягнуць. *Ад завулка цяніць дренныя паветра.* Лешчынка Мсцісл.

ЦЯНЬКІ́, нацянькі, *прысл.* Напрасткі. *Мы ходзім цераз лес — ныцянькі.* Буліна Касцюк. *Тут німа дарогі, нада ййіць ныцянькі.* Бабынічы Мсцісл.

ЦЯНЬЦЮ́Х, -а, *м.* Непаваротлівы [тоўсты] чалавек. *Ня будзь ціньцюхом — скарэй пувырачыйся.* Крычаў.

ЦЯ́ПА, -ы, *ж.* Ляпа. *Рызявіў воўк цяпу.* Хвёдараўка Краснап.

ЦЯПЕ́ЛЦА, -а, *н.* Агеньчык. *Вунь, далёка нейдзе цяпелца гарыць.* Палуж Краснап.

ЦЯПЕ́Р, *прысл.* Цяпер, зараз. *Абгывroutрылі людзі дзеўку, цяпер ніхто яе ўзамуж ня возьміць.* Дзіснакіта Мсцісл. *Разьбіў пляшку, і цяпер некуды ўзяць алею.* Канічы Касцюк.

ЦЯПЕ́РІКА, цяперыка, *прысл.* Цяпер. *Пашоў дождж, цяперіка грыбы будуць расьці.* Слабада Крыч. *Цяперіка й бабы стрыжкамі ходзюць.* Маластоўка Краснап. *Цяперыка будзем аткалываць абапылы. Цяперыка мала ўжо ў лесе грушцоў.* Хвёдараўка Краснап.

ЦЯПЕ́РЫЦЬКА, *прысл.* Цяпер. *Сёмку дрэвым прыстукнула і цяперыцька акрывеў.* Тур'я Чэрык. *Цяперыцька я ўжо ня ведыю, што зь етыга выйдзя.* Хвёдараўка Краснап.

ЦЯПЕ́РЫШНІЙ, *прым.* Цяперашні, сучасны. *Нашто мне спамінаць пра бытое, хопіць зь мяне і цяперышніга.* Ушакі Чэрык.

ЦЯПЕ́РЯ, *прысл.* Цяпер. *Міхей быў чылавекым, як і ўсе, а цяперя пулудурым стаў.* Палуж Краснап. *А цяперя што будзем дзелыць?* Глінь Касцюк.

ЦЯПЛІ́ШЧА, -а, *н.* Вогнішча. *Тут было цяплішча, бач, вугольля і махныткі ліжаць.* Бардзіч Краснап. *Рысклыдай цяпло ны старым цяплішчы.* Бяседавічы Хоцім.

*Трусочык ны цяплішчы пацьмеў.* Бардзіч Краснап.

ЦЯПЛО́, -а, *н.* Агонь, касцёр. *Прівялі ў поля коні і рысклалі цяпло.* Дубеец Касцюк. *Зыпалілі мы з Янкым цяпло лі ракі і сталі печ ракыў.* Куляшоўка Клім. *Рызьвялі яны цяпло на полі, ды дывай бульбу пячыць.* Ушакі Чэрык. *Устань ды зыпалі цяпло, ато цёмна стала.* Дубеец Касцюк. *Ськіваў, ськіваў, а ціпла німа чым разьвесьці.* Ушакі Чэрык.

ЦЯПЛО́ МЫШЫ́НЫЯ. Гнілушка, што свеціцца. *Найшоў у лесі мышыныя цяпло.* Хвёдараўка Краснап.

ЦЯРПЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Цярпенне, трываласць. *Ны ўсякыя зыхаценьня ёсьць цярпеньня.* Сохана Мсцісл.

ЦЯРПЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Цярпець. *Яшчэ налогі ў етым годзі пабожны, можна цярпець.* Слаўнае Мсцісл. *Сяньня такей мароз, што цярпець нільзя, так і бярець за нос.* Бяседавічы Хоцім.

ЦЯРПЛІ́ВЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Цярплівасць, трываласць. *Гэта ж нада мець цярплівысьць, каб знасіць такую ругань.* Лешчынка Мсцісл. *Ета нада мець вялікую цярплівысьць, каб ня есьць трі дні, як ета дзелыюць бабы пірід вялікыднім, калі постуюць тріднёўку.* Слаўнае Мсцісл.

ЦЯРТУ́ХА, -і, *ж.* Тоўчаная бульба, камы. *Мама зварыла бульбы, а тады зьдзелыла цяртуху.* Дзягавічы Крыч.

ЦЯРТУ́ШКА, -і, *ж.* Бок запалкавай скрынкі, намазаны масай для запальвання сярнічак. *На табе цяртушку, зыпалі сярнічку.* Хвёдараўка Краснап.

ЦЯРУШЫ́ЦЬ, *дзеясл.* Церушыць. *Цярушыць ды цярушыць хлеб на пыдлогу, толькі і ведай, што мяці за ім.* Ушакі Чэрык.

ЦЯРЫ́ЛА, -а, *н.* Бок запалкавай скрынкі, цяртушка. *Цярыла 'тсырэла, трэба пыкласьці ны пяколык, штоб прасохла, ато сярнічкі ні зыпальвыюцца.* Хвёдараўка Краснап.

ЦЯРЭ́МШЫНА, -ы, *ж. бат.* Чаромха. *Цярэмшына ўжо зыцьвіла.* Казельская Буда Краснап.

ЦЯРЭ́ШАЎКА, -і, *ж.* Матыль, мятлушка. *Вунь цярэшаўка лётыя пы кветках.* Зоры Чэрык.

ЦЯСЕ́ЛКА, -і, *ж.* Памянш. ад цясла. *Нада было б ізьдзелыць карыта, ды німа цясёлкі.* Хвёдараўка Краснап.

ЦЯСЁМКА, -і, *ж.* Тасёмка. *Аўдуля падпірізала Паўлюка цясёмкаю.* Дубеец Касцюк. *Вазьмі шадрону і спляці яму цясёмку пыдпіразвыцца.* Лешчынка Мсцісл.

ЦЯСЛА́, -ы, *ж.* Цясла. *Схадзі-ка цяслы пазыч, нада карыта зьдзелыць.* Брылёўка Краснап. *Больш бяры цяслой, чым тыпаром.* Камароўка Крыч.

ЦЯЦУ́ШНІК, -а, *м. бат.* Цяцюшнік лекавы. *Цяцушнік ля рэк расьцець.* Хвёдараўка Краснап.

ЦЯЦЮ́ХА, -і, *ж.* Трасца [малярыя]. *Штоб цябе так цяцюха трясла!* Гібалы Касцюк. *З год, як Зьмітрок прыехаў з Кубані, а яго не перастае трасьці цяцюха.* Чыгрынаўка Раснян.

ЦЯЧЫ́ [цеч], *дзеясл.* Цячы, працякаць. *Гэта ж у мяне засецьця цячэ.* Тур'я Чэрык. *Трошкі водыль ад майго двыра цячэ рэчка.* Кокатава Мсцісл. *Куды пыката, туды выда й цячэць.* Палуж Краснап.

# Ч

ЧА, *займ.* Чаго. *Ча ты ка мне прывізаўся?* Усцінавічы Краснап. *Ча ты кысавурысься ны мяне.* Кокатава Мсцісл.

ЧАБЕР, -у, *м. бат.* Чабор. *Чабер — ён пахучый, зь яго і чай зыварваюць калі.* Парадзіна Мсцісл.

ЧАБО́Р, чабру, *м. бат.* Чабор. *Чабор зьбіраюць на лікарства, зыварваюць яго, як чай, і п'юць. Чабор прыемна пахнець.* Пірагова Мсцісл. *Я ны мяжы нырваў чабру, панюхай, як смашна пахніць.* Добрае Мсцісл.

ЧАБО́ТЫ, -аў, *мн. л.* Чабаты, боты, чаравікі. *Сшыў сабе новыя чаботы.* Журбін Бялынкав.

ЧАБУ́ХНУЦЬ, *дзеясл.* Кінуцца з разгону ў ваду [боўтнуць з плёскатам]. *Як чабухнуў ён у ваду, дык толькі пяткі пыказаліся.* Палуж Краснап.

ЧАГО́СЬ, *займ.* Чагосьці, нечага. *Да іх міліцэя чагось пышла, мо' сымагонкі шукаць.* Белы Камень Бялынкав.

ЧАД, -у, *м.* Чад. *Нашто ты рана зачыніла комін? Чад пашоў пы хаці.* Гарбавічы Касцюк. *Рана затулілі юшку, пахніць чадым.* Бялішчына Мсцісл. *Ат чаду гылыва баліць.* Хвёдараўка Краснап.

ЧАДЗЕЦЬ, *дзеясл.* Чадзець, атручвацца чадам. *Яны чадзеюць: закутыюць рана юшку, каб цяплей было, і пычадзеюць. Але ж каб ета адзін раз, ато абыдзень; ляпей ужо холыд цярпець, чым вешна чадзець.* Дарагая Крыч.

ЧАДЗЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Чадзіць, дыміць, напускаць чаду. *Выкінь ты етыю махныткy, ато йна чадзець будзя.* Нашкавічы Мсцісл.

ЧАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Чадзіць. *Ні зыгарнывай вугольля ў попіл, ато чадзіць будуць.* Канахоўка Клім. *Ніхай вас з вашым курэньнем — нычадзілі поўну хату, проста дыхаць нечым.* Бель Бялынкав.

ЧАДЗІ́ЧКА, -і, *ж.* Дзіцятка, дачушка. *Чадзічка мыя нішчасныя, чаго ў дзеўкых ні сядзела?* Бялынкавічы.

ЧАДНА, *прысл.* Чадна. *У вас дужа чадна, аж дым сіній пыслаўся.* Сохана Мсцісл.

ЧАДНЫЙ, *прым.* Чадны. *Пысядзеў у чадный хаці, дык гылыва зыбалела.* Антонаўка Краснап. *У іх хата чадныя, яны вешна чадзіюць.* Журбін Бялынкав.

ЧАЙ, чаю, *м.* Чай, настой [адвар] якойнебудзь травы. *Мы прывыклі цяпер кожын дзень чай піць.* Пірагова Мсцісл. *Пыстаў,*

*жына, сумувар, чай будзем піць.* Нізкі Касцюк. *Пыстаў кызанец ны кылянок ды нагрэй чаю, хоць з чаберу ці рымашкі.* Горкі Краснап.

ЧАЙНІК, -а, *м.* Чайнік. *Чайнік у цябе ні памытый, аж жоўтый ат чаю стаў.* Касары Чэрык. *Ты ў блішаным чайніку прынясі вады на поля.* Арцёмаўка Мілас.

ЧАКУХА, -і, *ж.* Шляга, доўбня. *Вазьмі чакуху і стукні разы два пы абуху, мо тады расколіш.* Бялішчына Мсцісл. *Ета чакуха дужа цяжола.* Ташна Клім. *Ударыць трэба чакухый.* Хвёдараўка Краснап. *Бяры чакуху і пайдзём дровы калоць.* Студзянец Касцюк.

ЧАЛДОН, -а, *м.* Дурань. *З етыга чалдона дыбра ня жджы.* Хвёдараўка Краснап.

ЧАЛЕСЬНІК, -а, *м.* 1. Чалеснік, чало печы. *Чалеснік у печы дужа высок.* Журбін Бялынкав. *Чалеснік у печы рызвальвыіцца.* Азерцы Клім. *Чалеснік забурыўсь, няможна печ тапіць.* Цацэнь Аршаншчына. 2. Вусце печы. *Пыстаў гаршчок у чалесьнік, пыдалі ат агню, штоб ні бег.* Тэкліна Шумяц. 3. Месца ў куце каля печы і парога, дзе стаяць вілкі, качарга, чапяла. *Ганна, пыкладзі венік пад чалесьнік.* Мацутаўка Расняп. *Як загрімеў чалесьнік, як пыляцелі вілкі, качэрьгі, чапёлы, аж я піріпужалыся, ажно кот там нашкодзіў, чысайся, знаць, аб іх.* Слаўнае Мсцісл.

ЧАЛЯДКА, -і, *ж.* Чаляднііца, наймічка. *Адна жонка ў хадзяйстві ня справіцца, трэба чалядку наняць.* Бярозаўка Клінц.

ЧАЛЯДНІК, -а, *м.* Чаляднік. *Міхась тры гады чаляднікам у шыўца быў, а січас ад сябе работыіць.* Мсціслаў.

ЧАМУСЬ, *прысл.* Чамусьці. *Чамусь-та ён ні згыджаіцца на ета дзела, кажыць, што яму німа рашчоту.* Слабада Крыч.

ЧАН, -а, *м.* Чыгун. *Зварыла цэлы чан бульбы, дык за сьніданьня зьелі.* Бель Бялынкав.

ЧАПАЦЬ, *дзеясл.* Другім разам матыжыць ляда. *Ляда ўжо пабілі, цяпер нада чапаць.* Хвёдараўка Краснап.

ЧАПЕЛКА, -і, *ж.* Слупок з развілкаю, які ставіцца на бэльку, а ў развілку кладзецца кладка. *Устыўляй чапёлку ў піравадзіну, ды будзім кладку класьць.* Хвёдараўка Краснап.

ЧАПЕЛКІ, -лак. *мн. л.* Блокі, на якіх вісяць ніты ў кроснах. *А чапёлкі ў тваіх кроснах добрыя.* Дзягавічы Крыч. *Зьдзелай ты мне другея чапёлкі, ато етыя надта плахея, цяжка ткаць зь імі — ніты ніяк не пераіжджаюць.* Меншая Багацькаўка Мсцісл. *Пыдвяжы чапёлкі вышы, ато ніты нізка, дык зеў малы.* Хвёдараўка Краснап. *Чапёлкі ніты падтрымоўваюць.* Парадзіна Мсцісл.

ЧАПЕЦ, чыпца, *м.* Чапец. *Баба надзела чапец.* Журбін Бялынкав. *Чапец зывязвыіцца пад хустку.* Вінаградаў Мілас. *У Аўдоцьці чапец прыгожы.* Хоцімск. *Надзень чапец пад хустку, а тады хустку зывязывай.* Бялішчына Мсцісл.

ЧАПІЛА, -ы, *ж.* 1. Чапяла. *Ня лезь к печы, бо чапілой так і зьвязу, бачыш, у мяне тут ні ладзіцца: бліны ні 'дстаюць.* Крычаў. 2. Слупок з развілкаю, які ставіцца на бэльку, а ў развілку кладзецца кладка. *Бацька паехыў у лес за чапілой.* Мацутаўка Расняп.

ЧАПУРХНУЦЦА, *дзеясл.* Кінуцца бегчы гуртам, шугануць. *Стада авец чапурхнулыся ат спуду ўбок.* Слаўнае Мсцісл.

ЧАПЫЦЦА, *дзеясл.* Цягацца, хадзіць. *Цётка так змарнела, што чуць чапыцца.* Сохана Мсцісл.

ЧАПЯЛА, -ы, *ж.* Чапяла. *Блін згарэў! Хапай чапялу ды цягні скаўраду з печы!* Пірагова Мсцісл.

ЧАПЯЛЬНІК, -а, *м.* Чапяльнік. *Я на табе ўвесь чапяльнік паламаю.* Дарагая Крыч.

ЧАРА, -ы, *ж.* Вялікая чарка, чара. *Налій мне поўную чару віна — вып'ю я, каб на ўсё забыцца!* Ушакі Чэрык.

ЧАРАВАЦЬ, *дзеясл.* Чараваць, зачароўваць. *Мусіць чараваць умеіць гэтая дзяўчына: хлопцы ж за ёй дык роім.* Ушакі Чэрык.

ЧАРАЎНІК, -а, *м.* Чараўнік. *Ен, мабыць, чараўнік — у яго ўсё ладзіцца ў гаспадарцы.* Шумячы.

ЧАРВОНЫІ, *прым.* Чырвоны. *Ныпаліілі печ, аж чарвоныя была, але пычала ўжо атчахаць.* Ушакі Чэрык.

ЧАРГА, -ы, *ж.* Чарга. *За сольлю ў кыпірацьі тыкая чарга, што да вечыра ні дыстаніш.* Слаўнае Мсцісл.

ЧАРЕД, -у, *м.* Чарга. *Стынавісь усі ў чарёд — хто перш прішоў, таму первыму дывай.* Арцёмаўка Мілас.

ЧАРЕПКА, -і, *ж.* Міска [чарапок]. *Улі сабе крупені ў чарёпку, а гаршчок ізноў пыстаў у печ.* Іванаўка Хоцім.

ЧАРКА, -і, *ж.* Чарка. *Пыдай, баба, нам чарку, недзе там у судніку стаіць у куточку, трэба выпіць з сватым.* Канічы Касцюк. *Ну, выпі ету, адна чарка ні пашкодзіць.* Крычаў.

ЧАРНІЛА, -а, *н.* Чарніла. *Чарніла маё нейкыя ніхарошыя, ня піша саўсім.* Шарэйкі Касцюк. *Во кырындаш, пішы, а чарніла німа.* Арцёмаўка Мілас.

ЧАРНІЛКА, -і, *ж.* Чарніліца. *Пятрок ходзіць у школу, трэба яму чарнілку купіць.* Палуж Краснап.

ЧАРНІЛЬНІЦА, -ы, *ж.* Чарніліца. *Німа чым пісьмо напісаць, чарнільніца ёсьць, ды пустая: усё чарніла высыхла.* Арцёмаўка Мілас. *У яго разьбіта чарнільніца.* Шарэйкі Касцюк.

ЧАРНІЛЬЯ, -і, *ж.* Чарніла. *Пісьмо напісына чарнільюю.* Палуж Краснап.

ЧАРНІЦЫ, -іц, *мн. л. бат.* Ягады, чарніцы. *Чарніцы больш растуць у сасновым лесе, пры нізіне.* Пірагова Мсцісл. *Усып у гарелку чарніц, дык іна станіць красныя, і піць лучча.* Новы Дзедзін Мілас. *У нашым лясу растуць ягыды: брусніцы, чарніцы.* Слаўнае Мсцісл.

ЧАРНОБЫЛЬ, -я, *м. бат.* Чарнобыль, былнік. *Ны яблывіні адзін чарнобыль бяліцца.* Хвёдараўка Краснап. *У чарнобыля вісокій і тоўстый сьцябель.* Пірагова Мсцісл. *Нарьві там ны мяжы чарнобылі, можа блохі троху падохнуць.* Арцёмаўка Мілас.

ЧАРНУ́ШКА, -і, *ж.* Манашка. *Іна пастрігλыся ў нымастырь чарнушкый.* Слаўнае Мсцісл.

ЧАРОД, -у, *м.* Чарга. *Прышоў мой чарод ехаць у падводы.* Антонаўка Краснап.

ЧАРОТ, -у, *м. бат.* Чарот. *Калі нашыга возіра чарот, як лес, вялікій.* Ушакі Чэрык. *Чарот расьцець па берагах рэк, у вадзе.* Пірагова Мсцісл.

ЧАРПЁШКА, -і, *ж.* Карэц. *Вядро стаіць ны лаўцы, а чарпёшка ны вакне, бяры ды пі сам і мне прынясі.* Палуж Краснап.

ЧАРЭ́НЬ, -я, *м.* Верх печы, дзе спяць, самае гарачае месца. *Мар'я ляжыць на чарэні — грэецца.* Зарубец Крыч. *Пылажы анучкі ны чарэнь, хай прасохнуць.* Хвёдараўка Краснап.

ЧАРЭПАЦЬ, *дзеясл.* Чэрпаць. *Карцом чарэпуюць ваду з відра.* Крычаў.

ЧАС, -у, *м.* 1. Час. *Увесь час сьцёбыя пугаю кыня ды сьцёбыя.* Белы Камень Бялынкав. *Ні траць дырма часу, бо нічога ні даб'есься тут — паедзім дворў.* Нашкавічы Мсцісл. 2. Гадзіна. *Два часы, як я цябе тут дажыдаю.* Канахоўка Касцюк.

ЧАСАМ, *прысл.* Часам, выпадкам. *Часам ці ня думаіш ты сяньня зы працу брацца?* Канічы Касцюк.

ЧАСІНА, -ы, *ж.* Хвіліна. *Каб хоць часіна была свабодныя, дык і тае німа: цэлы дзень тупыіш да вечыра.* Зарубец Крыч.

ЧАСІНЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад часіна. *Я б ахотна вам пасобіла жаць, дык ні мею часінычкі.* Слаўнае Мсцісл.

ЧАСНОК, -у, *м. бат.* Часнок. *Часнок хырашо класьць у кіўбасы.* Пірагова Мсцісл. *Узяў зубок чыснаку ды з хлебым зьеў.* Хвёдараўка Краснап.

ЧАСНОТКА, -і, *ж. бат.* Часнотка. *Часнотка — трыва, пахніць, як часнок.* Нізькі Касцюк.

ЧАСТА, *прысл.* 1. Часта. *Я часта бываю ў свайго дзядзькі.* Бяседавічы Хоцім. *Пысядзі ў нас, ні часта к нам заходзіш і пысядзець ні хочыш.* Антонаўка Краснап. 2. Густа. *Набілкі харошыя, і ні цяжкія і ня лёгкія, адзін раз стукніш, і дужа часта тчэцца.* Слаўнае Мсцісл.

ЧАСТКА, -і, *ж.* Частка. *Частка лесу вырубліна і рыспахына, а частка йшчэ зыстылася.* Кокатава Мсцісл. *Падушка ў калёсых расчапілась на дзьве часткі.* Пухнава Расіян.

ЧАСТЫЙ, *прым.* 1. Часты. *Частыя наведвыньня хворыга толькі нілакоіць яго.* Нізькі Касцюк. 2. Густы. *Бёрда шырокыя, частыя, і пылатно выходзіць ладныя.* Слаўнае Мсцісл. *Зубцы ў граблях вельмі частыя.* Пухнава Расіян.

ЧАСЫ́, -оў, *мн. л.* Гадзіннік. *Мае часы нешта спорціліся, ня йдуць: спружына ці што лопнула.* Слаўнае Мсцісл.

ЧАСЬЦЬ, -і, *ж.* Частка, часціна. *Ён хоча, штоб і яму выдзілілі часьць. Максім з сваёй часьці, як яны пыдзяліліcь, яшчэ частку даў зяцю.* Арцёмаўка Міласл.

ЧАТА, -ы, *ж.* Частка. *А дзе ж мыя чата? Ці мне нічога ні належыць?* Хоцімск.

ЧАТЫ́РІ, *ліч.* Чатыры. *Чатырі вярсты прайшоў і ні 'глядзеўся.* Бель Бялынкав. *Ліжаў побыч дарогі, шагі ны чатырі.* Касперка Міласл.

ЧАТЫРКА, -і, *ж.* Чатыры сажні дроў. *На школу атпусьцілі чатырку дроў, нада іх перавесьць.* Хвёдараўка Краснап.

ЧАТЫРНАЦЦАЦЬ, *ліч.* Чатырнаццаць. *Я з чатырнаццаці гадоў пычаў здабываць сам сабе хлеб.* Маляцічы Крыч.

ЧАТЫ́РЫ, *ліч.* Чатыры. *Чатыры дні бесперыстанку ідзе дождж і сеіць ні дае.* Барысавічы Клім.

ЧАЎНОК, -а, *м.* Чаўнок. *Во харошый етый чаўнок, пряма сам бегыіць, толькі спруўляйсь прібіваць.* Бяседавічы Хоцім. *Іна як тчэ, дык пынажы скачуць, бёрда стучыць, а чаўнок між нітак птушкай лётае.* Парадзіна Мсцісл. *Вялікую цэўку ня сучы, ато чаўнок у зеў ня лезіць.* Цацэнь Аршаншчына.

ЧАЎПСЬЦІ, *дзеясл.* Чаўпці, казаць ці рабіць што па-свойму, не слухаючы другіх. *Колькі яму ні гывары, а ён сваё чаўпець.* Нова-Ельня Краснап.

ЧАЎРЫЦЬ, *дзеясл.* Чэўраць, сохнуць. *Яна ўсё чаўрыя, скора памрэць.* Хвёдараўка Краснап. *От нешта як зрабілась, пычыла чаўрыць, чаўрыць і счаўрыла.* Тур'я Чэрык.

ЧАЎХІР, -а, *м.* Карэц. *Пойны чаўхір вады выпіў.* Канахоўка Клім. *Вазьмі чаўхір ды засілі вады зь відра.* Антонаўка Краснап.

ЧАХОЛ, чыхла, *м.* Торба, падвязаная на спіне падпахі. *Зывізаў чахол і пашоў нейдзе, бадай што ў горыд.* Куляшоўка Клім. *Ну і чахол зывізаў!* Брылёўка Краснап.

ЧАЦЬВЕР, -рга і -ра, *м.* Чацвер. *Міколу я бачыла ў чацьвер у горыдзі на кірмашы.* Юшкі Мсцісл. *А ў чацьвер я с пахмельліка ліжала, ‖ А ў пяцінку буйна голыва балела.* З нар. песні, М. Г. 45.

ЧАЦЬВЁРКА, -і, *ж.* Чацвёрка. *Раньшы архірэй езьдзіў у карэці чацьвёркай, а січас пешкі ходзіць.* Куравічы Мсцісл.

ЧАЦЬВЁРТЫЙ, *ліч.* Чацвёрты. *Я да 'беду трі бугоні ўспыхаў і чацьвёртую пычаў.* Арцёмаўка Міласл. *Чацьвёрты мех бульбы кыпаем.* Слабада Крыч.

ЧАЦЬВЯРІК, -а, *м.* Чацвярык, мерка сыпкасці ў 8 гарцаў. *У ету торбу ўлезіць чыцьвіріка пуўтыра, ня большы.* Слаўнае Мсцісл.

ЧАЧОТКА, -і, *ж.* Чачотка (бяроза). *Ета чачотка, яе ні расколіш, бо бачыш, як у яе накручаны слаі.* Студзянец Касцюк. *У яго партабак з чачоткі.* Куляшоўка Клім.

ЧАШКА, -і, *ж.* 1. Чашка, кубак. *Ні стаў чашку ны стале.* Канава Хоцім. *Ат вады ў чашцы зыстаўся адзін бруд.* Слаўнае Мсцісл. 2. Высечаная ў бервяне выемка для другога бервяна пры будове. *Чашка ў бярне глыбокыя, больш моху класьць нада.* Пухнава Расіян. *Вырубіў дзьве чашкі, а тады кінуў тапор і пашоў.* Варадзькава Крыч.

ЧАШЫЧКА, -і, *ж.* Каленны сустаў. *Нагу ў чашычкі вывіхнуў.* Хвёдараўка Краснап.

ЧВІР, -у, *м.* Жвір, жарства, буйны пясок. *На етым чвіру нічога ні расьцець.* Сохана Мсцісл.

ЧВЫР, -у, *м.* Жвір, буйны пясок. *Капай студню да чвыру, дык дастанеш вады.* Пятухоўка Чав. *Тут ні зімля, а чвыр адзін, на ім нічога ня родзіць.* Башары Расиян.

ЧВЯ́КЫНЬНЯ, -я, *н.* Чвяканне, марудная яда. *Ты скарей еш, ато ў мяне ў вушах тряшчыць ат етыга твайго чвякыньня.* Арцёмаўка Міласл.

ЧВЯ́КЫЦЬ, *дзеясл.* Чвякаць, з цмоканнем жаваць. *Што ты чвякыіш — як ясі, усі пырысяты пызьбягуцца.* Слаўнае Мсціcл. *Што ты так чвякыіш, усё дно як дужа смашныя што ясі.* Арцёмаўка Міласл.

ЧМА́РЫЙ, *прым.* Цёмна-гнедай масці. *У яго былі два кані: чмарый і пылавэй, дык чмарыга ён прыдаў.* Бяседавічы Хоцім.

ЧМУР, -а, *м.* Пахмурны, захаваны ў сябе чалавек. *Чмур еты ці адзін, ці пры людзёх, заўсёды маўчыць.* Вародзькава Крыч.

ЧМУРА́, -ы, *ж.* Глуша ў лесе, немарач, нетра. *Зайшлі ў чмуру, а ні ходу, ні выхаду.* Бакунавічы Чэрык.

ЧМУРЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Чмурэць, траціць разуменне. *Чмуреіць чылавек: гаворіць німаведыма што.* Слаўнае Мсціcл.

ЧМУТ, -а, *м.* Чмут, пустамеля [падманшчык]. *Чмут ты нішчасны! Вот будзець брахаць і брахаць, абы языком малоць.* Ушакі Чэрык.

ЧМЫ́ХАЦЬ, *дзеясл.* [1. Хмыкаць]. 2. Шукаць, вынюхваць, падгледжваць. *Што ты тут чмыхаіш, што ты тут пыцяряў, што? Ідзі-ка, нічога тут длі цябе німа.* Арцёмаўка Міласл.

ЧО́БАТ, -а, *м.* Чобат, бот, чаравік. *У мяне адзін чобат пакрывіўся.* Хоцімск. *Купі ты сабе хоць чобаты новыя, ато ходзіш у етых атопках, як старіц.* Вародзькава Крыч.

ЧО́ВЕН, човін, -уна, *м.* Човен. *Па рэчкі плыве човен, а ў ім цэлыя кымпанія, сядзяць і песьні пяюць.* Беразяк Краснап. *Садзісь, ато човен атыходзіць ат берыга.* Канічы Касцюк. *Мы селі ўдваіх у човін і паехылі на тэй бок.* Бяседавічы Хоцім.

ЧО́КЫВЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад чокаўка. *Зыбралі чокывычык — дзяцей з гнізда.* Хвёдараўка Краснап.

ЧО́КЫЎКА, -і, *ж. заал.* Чокаўка, птушка, падобная да аўсянкі. *Чокыўка гняздо пакінула, відаць, нехта яйцо ў рукі браў.* Хвёдараўка Краснап.

ЧОМ, *займ.* Чаму. *Чом ты ня прыехаў тады? А мы цябе ждалі.* Буглаі Краснап.

ЧО́РНЫЙ, *прым.* Чорны. *Сяньні чорный трус згрыз два кычаны капусты.* Бяседавічы Хоцім. *Прышылі к шубкі чорны каўнер.* Дзягавічы Крыч. *Той самы, што ў чорнай сьвітцы гуляіць.* Вітрунь Касцюк.

ЧОРТ, -а, *м.* Чорт. *Буцян, буцян, доўгі нос, куды цябе чорт панёс?* Кокатава Мсціcл. *У чорта етыга добрысьці німа.* Палуж Краснап. *Я яму дыбра зычу, а ён чортам глядзіць.* Гібалы Касцюк.

ЧО́РТЫВА ЯЙЦО́. Назва грыба. *Чортыва яйцо — ета грыб такей, ванючый, але дужа пальзіцільный ат жывыта.* Хвёдараўка Краснап.

ЧО́РТЫЎ, *прым.* Чортаў. *Кундзель ты чортый, што ты зьдзелыў?* Тур'я Чэрык.

ЧО́РТЫЎ ПАЛІЦ. Акамянеласць у крэйдавых адкладаннях. *Пыскрабі чортыў паліц і прысып парэз—ураз зажывець.* Брылёўка Краснап.

ЧОС, -у, *м.* Праборка. *Дай я яму чосу за ета — будзя помніць.* Маластоўка Краснап.

ЧО́СКА, -і, *ж.* Праборка. *Дай яму чоску, штоб знаў другей раз, як ня слухаць маткі.* Маластоўка Краснап.

ЧОТ, -у, *м.* Цот. *Ён узяў у горсьць аряхоў і зыгыдаў: чот ці лішка? Я ўгыдала, скызала, чот — там і было чатыры.* Арцёмаўка Міласл. *Будзім гуляць у чот і лішку.* Хвёдараўка Краснап.

ЧОХ, -а, *м.* Чых. *Нухнуў я тыбакі з дзедывай тыбакеркі, дык як прыбраў мяне чох, дзецца нейдзі.* Арцёмаўка Міласл.

ЧУБ, -а, *м.* Чуб, хахол. *Пыймаіш у яблыках, дык адзьдзяры хырашэнька за вушы, зы хахол, вырві яму ўвесь чуб.* Арцёмаўка Міласл. *Зачысаў чуб дыгары.* Гібалы Касцюк.

ЧУБУ́К, -а, *м.* Цыбук. *С аднае піпкі без чубука не пакуріш.* Гібалы Касцюк.

ЧУВА́ЦЬ, *дзеясл.* Чуваць. *Ну, што чуваць? А нічога добрыга.* Нашкавічы Мсціcл. *Я ета сам чуваў ны сваё вушы.* Яўкіна Шумяц.

ЧУВАШЫ́, -оў, *мн. л.* Лапці з запленымі насамі. *Надзеў чувашы і пашоў.* Хвёдараўка Краснап.

✓ ЧУГА́Й, -я, *м.* Верхняе адзенне з саматканага сукна, адзяваецца на кажух ці пінжак. *Бацька надзеў у дарогу чугай.* Віналградаў Мсціcл. *Надзень чугай ны кажух, цяплей будзя.* Куляшоўка Клім.

ЧУГУ́Н, -а, *м.* Чыгун. *Загнет рызваліўся, дык чугуны дрэнна ставіць.* Новыя Капачы Мсціcл. *Нагрэла вару два чугуны.* Лютня Краснап.

ЧУГУ́НІК, -а, *м.* Бляхар. *Чугунік ні задзелыў, а толькі спорціў вядро.* Мацутаўка Расиян.

ЧУГУ́НКА, -і, *ж.* Чыгунка. *Мой брат працуе на чугунцы стрэлашнікам.* Шумячы.

ЧУГУ́ННЫЙ, *прым.* Чыгунны. *У нашай грубцы чугунныя дзьверцы.* Канічы Касцюк.

ЧУГУНО́К, -нка, *м.* Памянш. ад чугун. *Зывары рымашкі ў чугунку, я буду піць.* Пірагова Мсціcл.

ЧУ́ДА, -а, *н.* [Цуд], дзіва. *Чуда нейкыя ды годзі — толькі што пыклаў рукавіцы ны лаўкі, і ўжо німа, як іх чорт ухапіў.* Чыгрынаўка Расиян.

ЧУДА́К, -а, *м.* Дзівак. *Якей ты чудак, няўжо ты етыга не сьцяміш?* Маркаўка Хоцім.

ЧУ́ДНА, *прысл.* Дзіўна, хітра. *Ны кардохлях во многа бярёскі, ды як іна чудна неік абкручывыіцца аб кырдыхляньня, што ні дырваць.* Арцёмаўка Міласл.

ЧУ́ДНЫЙ, *прым.* Дзіўны. *Дзіўны сон я сяньні відзіла, нешта такоя прісьніла, аб чым ніколкі ня думыла, нейкій такей жа чудный, што цэлый дзень хаджу і забыць ні магу.* Арцёмаўка Міласл.

ЧАЖАЗЕ́МІЦ, -мца, *м.* Чужаземец. *Ета чылавек ні нашыга краю — ён чужаземіц.* Белы Мох Мсціcл. *Ён, відна, чужа-*

*земіц, гаворіць ні пы-нашыму — гырманіц ён ці што.* Арцёмаўка Міласл.

ЧУЖЫЙ, *прым.* Чужы. *Ета конь чужы, ня мой; у мяне німа свайго кыня.* Варадзькава Крыч. *Пысяліўсь у чужым дварэ і зыўлыдаў усім чужым дабром.* Сохана Мсціcл. *Ні гальсь на чужоя дабро.* Гібалы Касцюк. *Чужоя гора ні такоя, як сваё.* Андраны Расняп. *Надзень прыкалёвыю сарочку, там жа будуць чужэя людзі.* Барыавічы Клім. *Чужэя дзіця — ні сваё, ні пыжалеіць.* Касперка Мсцісл.

ЧУКМАР, -а, *м.* Вялікі молат з дзерава, шляга. *Пыдай чукмар, нада еты вугал прысадзіць.* Варадзькава Крыч.

ЧУКУНЕЦ, -нца, *м.* Малое парасё. *Чукунцы чакыюць у карыці.* Хвёдараўка Краснап.

ЧУЛА́Н, -а *м.* Каморка. *Схадзі ў чулан і прынясі сала.* Галоўчыцы Калініншчына. *Дзяўчаты спяць у чулані.* Прыпечына Касцюк. *Зынясі сваю адзежу ў чулан ды павесь.* Зоры Чэрык. *Матка пыставіла кубел у чулан.* Вінаградаў Міласл.

ЧУЛІНДРА, -ы, *ж.* Флюндра, неахайная жанчына. *Жонка яго — нейкыя чуліндра: кохта пырваныя, расшпіліна, спадніца грязныя, проста глядзець гідка.* Арцёмаўка Міласл.

ЧУ́ЛЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Чуласць. *Чулысьць анцілігенскыя, дажа цапнуцца нільзя.* Бяседавічы Хоцім.

ЧУМІЧКА, -і, *ж.* Апалонік. *Гануля, прынясі мне чумічку наліць крупені.* Крычаў. *Улі мне ў міску чумічкі дзьве варыва.* Варадзькава Крыч.

ЧУ́НІ, -яў, *мн. л.* Лапці, сплеценыя з аборак. *Летам добря хадзіць у чунях.* Хвёдараўка Краснап. *Янка сплёў сабе чуні.* Глінь Крыч. *Адных чунь у сухую пагоду хыпаіць ны два месяцы.* Бяседавічы Хоцім.

ЧУПІЛА, -ы, *ж.* Непаваротлівы чалавек. *Што ты ходзіш, як чупіла, варочыйся жывей!* Бялішчына Мсцісл.

ЧУПРІНА [чупри́на], -ы, *ж.* Чупрына, валасы. *Падумыіш, кувалерчык якей — чупріну прімасьліў, боты нылашчоніў.* Палуж Краснап. *Зы такея дзялы варта натрэсьці за чупрыну, але ніхай ужо так абыйдзецца ны етый раз.* Зяціца Мсцісл.

ЧУПУРІЦЦА, *дзеясл.* Прыбірацца ў новую адзежу. *Во ўжу чупуріцца, ні пыдхадзі к ёй. Думыіць, у новый панёві, дык луччы ўсіх.* Арцёмаўка Міласл.

ЧУПУРО́М, *прыс.* Зухам. *Ён чупуром ходзіць.* Хвёдараўка Краснап.

ЧУПУРЫ́СТЫЙ, *прым.* Зухаваты. *У Аўдота дужа чупурыстый чуб.* Палуж Краснап.

ЧУПУРЫ́ЦЦА, *дзеясл.* Прыбірацца ў новае адзенне. *Дзяўчына чупурыцца на ігрышча.* Крывы Лес Шумячы.

ЧУПЫ́РСНУЦЬ, *дзеясл.* Выцяць. *Чупырснуў хлыпца ні за што.* Хвёдараўка Краснап.

ЧУРАЦЦА, *дзеясл.* Чурацца, цурацца. *Ен стаў чурацца сваіх родных, калі пабыў у горыдзі.* Слаўнае Мсцісл.

ЧУРУ́, *выкл.* Чур. *Ета, чуру, маё! Як прыгыняюць у лес уперва кароў, дык зыгуваріюць: чуру, мой лес, чуру, мой статычак увесь, а курэй, гусей, хуць і воўк паеж.* Турэйск. Краснап.

ЧУ́СТВУВЫЦЦА, *дзеясл.* Адчувацца. *На душэ чуствуіцца нейкыя пылягчэньня, як скызалі, што ета ніпраўда.* Слаўнае Мсцісл.

ЧУ́СТВЫВАЦЬ, *дзеясл.* Адчуваць. *Клопыт мне вялікі, што ў цябе баліць гылыва, я етыга ня чуствыю.* Слаўнае Мсцісл.

ЧУ́ТКА, -і, *ж.* Чутка, вестка. *Прыйшла чутка, што солі ня будзіць, нада было б купіць у зыпас, ды грошы німа.* Канічы Касцюк.

ЧУ́ТКА, *прысл.* Чуйна. *Ен чутка сьпіць: босы лі яго ні прайдзеш — прашнецца.* Арцёмаўка Міласл.

ЧУ́ТНА, *прысл.* Чутна. *Як пычыла гусьць, аж на тым канцы чутна было.* Парадзіна Мсцісл. *Здалёку чутна было гыгытаньне гусей.* Пірагова Мсцісл.

ЧУХВЯ́К, -а, *м.* 1. Мяшок, напоўнены саломаю, для спання, цюфяк, сяннік. *Нада свежый саломы набіць у чухвяк: старыя ўжу піряцёрлысь.* Цівецкая Краснап. 2. Тоўсты, непаваротлівы чалавек. *Хлопцы зь дзеўкымі танцуюць, а ён стаіць, рот рызяпіўшы, чухвяк чухвіком.* Серчыцы Краснап.

ЧУХМАР, -а, *м.* Вялікі молат з дзерава, шляга. *Вазьмі чухмар ды садзі ў клін.* Хвёдараўка Краснап.

ЧУХМЕ́НЬ, -я, *м.* Верхняя адзежа з даматканага сукна. *Сяньня ідзець быльшая мяцеліца, трэба надзець чухмень.* Сапрынавічы Мсцісл. *Трэба надзець чухмень, ато ногды дождж пойдзе.* Юравічы Крыч. *Надзень чухмень, бо сяньні будзець халодныя ноч.* Зялёны Луг Мсцісл. *Дождж, відна, пойдзець, а я чухміня ні надзеў — будзя халодна і прамокну.* Бяседавічы Хоцім.

ЧУ́ЦЦА, *дзеясл.* Чуцца. *Нейкі грукыт чуецца ны хаце. Адцюль чуецца скогыт людзей ны пыжарі.* Лешчынка Мсцісл.

ЧУЦЬ, *дзеясл.* 1. Чуцца, даносіцца. *Голыс чуць неткуль.* Палуж Краснап. [2. Чуць]. *Мы пра свайго сына ўжо трэці год нічога ня чулі — загінуў недзя.* Ушакі Чэрык. *Ці чула ты, таічка, што людзі кажуць? Дзе ж мне чуць — я нікуды ні хаджу і нічога ня чую.* Гібалы Касцюк. 3. Адчуваць. *За дзень зымарілысь так, што ні рук, ні ног ня чую.* Слаўнае Мсцісл.

ЧУЦЬ, *прысл.* 1. Амаль. *Я ўчора чуць ні ўтапіўся, купаючыся.* Ушакі Чэрык. *Карова чуць малога ні ўкалола.* Канічы Касцюк. 2. Ледзь. *Я чуць жыў, а ты мяне ў лес пасылаеш.* Хоцімск. *Як вурзнуўся аб камінь, дык чуць устаў.* Кокатава Мсцісл. *Як залез кыля рэчкі ў твань, дык чуць вылез.* Варадзькава Крыч.

ЧУЦЬ-ЧУЦЬ, *прысл.* Ледзь-ледзь. *Мыя матка чуць-чуць аддыхыла посьлі хваробы.* Нізкі Касцюк. *Во скупэй чылавек: чуць-чуць вымындзырыла рубель грошы.* Куркаўшчына Мсцісл. *Айдзе-та далёка йграюць, чуць-чуць чутна.* Канічы Касцюк. *Етый хлопіц можа трошычкі, чуць-чуць большы таго.* Арцёмаўка Міласл.

ЧУЦЬЦЕ, -я, *н.* Чуццё, нюх. *У етыга*

*сыбакі дужа харошыя чуцьцё: ён зайца зы вярсту пачуіць.* Арцёмаўка Міласл.

ЧУЧЫЛА, -а, *н.* Страшыдла. *Пыстаў ны гародзі чучыла, ато віраб'і ўвесь ячмень вылушчаць.* Новае Сяло Мсцісл.

ЧУШУЯ́, -і, *ж.* Рыбіна луска, чашуя. *Тут рыбакі рыбу лавілі: бач, чушуя ны траве асталысь.* Боханы.

ЧХАЦЬ, *дзеясл.* Чхаць. *Сяжу я там, баюсь, штоб ніхто ні ўвызнаў, што я там, а тут мне чхаць ці кышляць пызывая, дужа ў мяне насмырк быў.* Арцёмаўка Міласл.

ЧХНУЦЬ, *дзеясл.* Чхнуць. *Зажыў тыбакі ды як чхнець на ўсю хату, дык аж куры падпеччу ўстрывожылісь.* Куляшоўка Клім. *Сядзі і ні чхні, каб цябе ніхто і ні чуў!* Антонаўка Краснап.

ЧЫБАТЫ, -оў, *мн. л.* Чобаты. *Бацька пашыў новыя чыбаты.* Крычаў. *Мне купілі новыя чыбаты, ды цесныя: я іх чуць узьдзеў на ногі.* Корня Хоцім. *Дзед надзеў свае чыбаты і пашоў у госьці.* Машавая Бялынкав. *Ты сабе купіў чыбаты, а ў мяне й лапціў німа.* Дубеец Касцюк.

ЧЫБРЫК, -а, *м.* Жэўжык, дураслівец. *Маўчыця вы, чыбрыкі, ато дам я вам.* Хвёдараўка Краснап.

ЧЫБУРЭ́ХНУЦЬ, *дзеясл.* Боўтнуць, кінуцца з размаху ў ваду [і абярнуць пасудзіну з вадой]. *Я з мыста чыбурэхнуў у рэчку, дык выплыў аж унь там.* Палуж Краснап.

ЧЫГУНО́К, -нка, *м.* Чыгунок. *Стыўляй у печ чыгунок з бульбай, ніхай варыцца.* Ушакі Чэрык. *Пыдай мне, Мар'я, чыгунок, што абернуты ны лаўцы, нада пыставіць у ім вады на шчайя.* Куркаўшчына Мсцісл.

ЧЫ́ЖЫК, -а, *м.* Чыжык (назва танца). *Бяруцца тры пары за рукі і робяць рухі, быццам снуюць кросны, пры гэтым пяюць: «Чыжык, чыжык, айдзе быў».* Хвёдараўка Краснап.

ЧЫ́КАНЬНЕ, -я, *н.* Чыканне [ціканне]. *У хаці нікога німа, цішыня, толькі чутна чыканне часоў.* Лешчынка Мсцісл.

ЧЫ́КАЦЬ, *дзеясл.* Чыкаць [цікаць]. *Ходзікі нашы чыкалі, чыкалі ды сталі, пыдцягні гіру, ніхай ідуць.* Буглаі Краснап.

ЧЫКАЦЬ, *дзеясл.* Чакаць. *Ат етыга бандзіста дыбра чыкаць нечыга.* Ушакі Чэрык. *Чыкай тут яе, а іна там зымарудзілыся нешта і ня йдзе.* Парадзіна Мсцісл. *Чыкаў я цябе, чыкаў ды хацеў ужо йсьці, бо думаў, што ні прыдзеш.* Нізькі Касцюк.

ЧЫКІРДА́, -ы, *ж.* Гурт парасят. *У цябе дзяцей, як чыкірды.* Хвёдараўка Краснап.

ЧЫКНУЦЬ, *дзеясл.* Выцяць, чыркнуць. *Чыкні-ка ты крысала, ці добра яно сячэць?* Хвёдараўка Краснап.

ЧЫЛАВЕ́К, -а, *м.* 1. Чалавек. *Ета чылавек наській, з нашыя дзярэўні.* Гібалы Касцюк. *Во тыварышы, пакінулі п'яныга чылавека лі дарогі аднаго і пашлі сабе.* Лешчынка Мсцісл. 2. Муж. *Я б і пышла, ды чылавек мой ня хочыць, а мне адной ісьці ні выпыдая.* Буглаі Краснап. *Нешта доўга німа майго чылавека з кірмаша.* Затоны Расьян.

ЧЫЛАМУ́Д, -а, *м.* Чалавек, што робіць ці гаворыць недарэчнасці. *Ці ты ня ведыіш якей ён чыламуд? Ен жа нічога толкам табе ні скажыць і ні зьдзелыіць.* Палуж Краснап.

ЧЫЛЬЧА́К, -а, *м.* Хвароба ў коней. *У кабылы чыльчак.* Хвёдараўка Краснап.

ЧЫЛЯДЗІ́НКА, -і, *ж.* Наймічка, чалядніца. *Сама ні спрыўляюся ў хаці, нада чылядзінку брацъ.* Зарубец Крыч.

ЧЫЛЯ́ДКА, -і, *ж.* Наймічка [чалядніца]. *У іх немка ў чылядкых служа.* Палуж Краснап.

ЧЫ́МСЯ, *злучн.* Чымся, чым. *Луччы сьмерць, чымся зноў з пынамі жыць.* Арцёмаўка Міласл. *Чымся жаніцца, лепей ба паступіў у тэхнікум ды асьвету дыстаў.* Старае Сяло Мсцісл.

ЧЫМЯРЫ́ЦА, -ы, *ж. бат.* Чамярыца, цыкута. *Чымярыца ў лесі цьвіцець розывым, іна атрутныя.* Хвёдараўка Краснап.

ЧЫН, -у, *м.* Чын, парадак. *Ны свадзьбі быў такі чын — зы сталом сядзелі мірна: гыманілі, пелі.* Слаўнае Мсцісл. *Німа ніякыга чыну, айдзе хто хоча, там ідзе, што хоча — робіць, і ніхто ні глядзіць.* Капахоўка Клім.

ЧЫНО́ЎНІК, -а, *м.* Чыноўнік, канцылярскі працаўнік. *У канцылярії сідзяць чыноўнікі і пішуць, толькі перья скрыпяць.* Слаўнае Мсцісл.

ЧЫПА́ЦЦА, *дзеясл.* Чапацца. *Зь ім, брат, ні чыпайся, ён дужэйшы зы цябе, дык дасьць табе дыху.* Краснаполле.

ЧЫПАЦЬ, *дзеясл.* 1. Чапаць. *Ні чыпай, каго ня трэба!* Сохана Мсцісл. *На што ты яго чыпаіш?* Іванаўка Хоцім. *Ета дзедаў кій, ні чыпай.* Касперка Міласл. 2. Чапляць, вешаць. *Абгалелі так, што хуць торбу чыпай ды ў старецтва ідзі.* Слаўнае Мсцісл.

ЧЫПІЛА́, -ы, *ж.* 1. Чапяла. *Дзе йта мыя чыпіла падзелысь, бліны дыстываць няёмка біз яе.* Стары Дзедзін Міласл. *Матка дзяцей чыпялою ад печы 'дыгнала.* Малюшын Краснап. 2. Слупок, на які кладзецца кладка страхі. *Чыпіла трымаіць крышу.* Пухнава Расьян.

ЧЫПЛЯ́ЦЦА, *дзеясл.* Чапляцца. *Пупраў пынажы, ато чыпляюцца адзін зы адзін.* Слаўнае Мсцісл.

ЧЫПЛЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Чапляць, прычэпліваць. *Гужы прывязывуюць к ворчыку, а ворчык чыпляюць на плуг.* Бяседавічы Хоцім.

ЧЫПЯЛЬНІ́К, -а, *м.* Чапяльнік, кут, дзе ставяць вілкі, качэргі, чапялу і іншыя кухонныя прылады. *Пыстаў каромісіл у чыпяльнік.* Бяседавічы Хоцім.

ЧЫРАВІ́КІ, -аў, *мн. л.* Чаравікі. *Дзяўчына надзела новыя чаравікі і пышла ны вечарынку.* Крычаў. *Чыравікі мае пытыпталісь, нада пачыніць.* Касцюковічы.

ЧЫРАЗЧУ́Р, *прысл.* Праз меру, занадта. *Гэта длі цябе чыразчур многа, дай і мне троху.* Кокатава Мсцісл.

ЧЫРА́СЬНІЦА, -ы, *ж.* Вейка. *Чуць вока ня выпік — чырясьніцу апсмаліў.* Цівецкая Краснап.

ЧЫРАЎНІ́ЦА, -ы, *ж.* Чараўніца. *Ганна нейкыя чыраўніца ці што — усіх хлапцоў прычырувала: ходзяць за ёй тубуном.* Куляшоўка Клім.

ЧЫРАЎНІЦТВА, -а, *н.* Чараўніцтва. *Ен чыраўніцтва нейкыя знаіць, штоб ны яго полі град ня біў, зыгыварівыць, верна, ўмеіць.* Арцёмаўка Міласл.

ЧЫРВОНІЦ, -нца, *м.* Чырвонец, дзесяць рублёў. *У мяне быў чырвоніц, ды брат учоры прыслаў два чырвонцы, вось я сабе й купіла за трыццаць рублёў паліто.* Пірагова Мсцісл.

ЧЫРВОНЫЙ, *прым.* Чырвоны. *У бабы чорны андрак, а кыбат чырвоны.* Машавая Бялынкав. *Зысаромілась іна, як жар, стала чырвона.* Ушакі Чэрык. *Чырвона, як каліна.* Меншая Багацькаўка Мсцісл.

ЧЫРВЯК, -а, *м.* Чарвяк. *Дыжджавэя чырвякі пувылазілі зь зямлі, знаць, надыйга зыдажджыцца.* Журбін Бялынкав. *Чырвякі нылалі ны капусту — прыпадзе капуста, пыядуць.* Касперка Міласл.

ЧЫРІДА, -ы, *ж.* Чарга. *Стыфан, сяньні твыя чыріда коні наныч весьць.* Гібалы Касцюк.

ЧЫРІЗ, *прыназ.* Цераз, праз. *Ен пірялез чыріз забор у сад. Усё ета чыріз цябе.* Касперка Міласл.

ЧЫРНАСТУП, -а, *м.* Дарога ўвосень, да снегу. *Я езьдзіў у дровы яшчэ пы чырнаступу, чырнаступым.* Ушакі Чэрык.

ЧЫРНІЛА, -а, *н.* Чарніла. *Абмакні мне пяро ў чырніла.* Мсціслаў. *Разьліў чырніла, і пісаць нечым.* Шарэйкі Касцюк.

ЧЫРНЫГАЛОЎ, -ву, *м.* Чарнагалоў, першая вясенняя трава ў балоце. *Карова есьць чырныгалоў.* Хвёдараўка Краснап.

ЧЫРНЯВЫЙ, *прым.* Чарнявы. *Прыхадзіў к нам нейкій чырнявый чылавек.* Бардзіч Краснап.

ЧЫРНЯЎКА, -і, *ж.* Чарнявая жанчына, брунетка. *Узяў зы сябе нейкыю чырняўку.* Гарадзецкая Краснап.

ЧЫРПАК, -а, *м.* Чарпак, карэц, берасцяная лыжка на доўгай палцы даставаць ваду з крыніцы. *Зьдзелый чырпак з бірісты, ато так ні дыстаніш вады.* Бяседавічы Хоцім. *Чырпак стаіць з вадою.* Шумячы.

ЧЫРПАЦЬ, *дзеясл.* Чэрпаць. *Чырпай, чырпай ложкай, а тады дывай набгом з міскі.* Бяседавічы Хоцім.

ЧЫРТА, -ы, *ж.* 1. Долата для выбірання пазоў у бервяне. *Дай мне сюды чырту, нада шпары прабіць.* Хвёдараўка Краснап. 2. Выбраны паз у бервяне. *Чырта ў брайне вялікая, нада больш моху класьць.* Пухнава Расня́н.

ЧЫРТУЎНЯ, -і, *ж.* Чартаўня. *Што за чыртуўня? Січас толькі пылажыў рукавіцы, дык ўсё дно як чэрці схапілі.* Арцёмаўка Міласл.

ЧЫРЫВАТЫЯ, *прым.* Цяжарная. *Пышла баба чырыватыя.* Буглаі Краснап.

ЧЫРЫДА, -ы, *ж.* Чарга. *Чыя сяньні чырыда коні сьцярэч?* Кокатава Мсцісл. *Пожню сьціраглі па чырадзе.* Гарадзецкая Краснап. *Пыдажджы, дзядзічка, прыдзіць ды цябе чырыда, сустрэніць цябе біда.* Пухнава Расня́н.

ЧЫРЫЗ, *прыназ.* Цераз, праз. *Хлопчык чырыз раўчок піряскочыў.* Палуж Краснап.

ЧЫРЫСЯДЗЕЛЬНІК, -а, *м.* Падсядзёлак. *Пыдцягні вышы чырызсядзельнік, ато паб'ець конь сьпіну.* Бяседавічы Хоцім.

ЧЫРЯНІ, -іў, *мн. л.* Чаранок у нажы. *У маём ножыку расчапіліся чыряні.* Гібалы Касцюк.

ЧЫРЯНЬНЯ, -я, *н.* Чаранок у нажы. *Нада к етыму нажу чыряньня зьдзелыць, ато ён во так звыляіцца. Тут была нейдзі палычка, можна ат яе атрезыць чыряньня.* Арцёмаўка Міласл.

ЧЫРЯПОК, -пка, *м.* Чарапок. *Як брязнуў міску ап пол, дык і чыряпкоў ні зьбярэш.* Хвёдараўка Краснап.

ЧЫСАЦЬ, *дзеясл.* 1. Часаць. *Матка паехыла чысаць воўну.* Бель Мсцісл. *Дзеўка касу чысала ды ачоскі ў агонь кідала.* Бардзіч Краснап. 2. Лаяць, прабіраць. *Хлапец палез ны гывырылку і дывай лаіць, і дывай чысаць за продаж лесу.* Палуж Краснап.

ЧЫСТА, *прысл.* 1. Чыста. *Выціральнік чыста вымыт.* Крычаў. *Як вышырывала венікым, дык і падлога чыста вымылыся.* Пушкова Касцюк. 2. Зусім. *Пыкалоў я сабе чыста ногі.* Ціўецкая Краснап. *Усё чыста паеў і мне нічога ні пакінуў.* Старае Сяло Мсцісл.

ЧЫСТАВОД, -а, *м.* Рахункавод. *Мой Іван паступіў на чыставоды ў Райвыканком.* Вярбоўка Расня́н.

ЧЫСТАКЛЕТ, -у, *м.* Паркан, агароджа дубцамі. *Сад свой чыстаклётым абнёс.* Хвёдараўка Краснап.

ЧЫСТАКОЛ, -у, *м.* Частакол, агароджа каламі, забітымі ў зямлю. *Чыряз етый чыстакол ужо ніхто ні пірялезіць.* Бяседавічы Хоцім. *Чыстакол пачыніць нада, сьвіньні ў гарод лазяць.* Тур'я Чэрык.

ЧЫСТУВАЦЬ, *дзеясл.* Частаваць. *Зьявіліся дырагія госьці, ды ня ведыю, чым вас чыстуваць.* Гарбавічы Касцюк.

ЧЫСТЫЙ, *прым.* 1. Чысты. *Пысьля дожджу воздух такій чыстый стаў.* Сохана Мсцісл. *Наша століь вельмі чыста.* Шумячы. *Мы цяпер ядзім чыстый аржаный хлеб, ато ўсё мішалі з ячменям.* Пірагова Мсцісл. 2. Цнатлівы, чэсны. *Ой, з гэстай распусьніцай дык чыстай дзяўчыні і гыварыць стыдна.* Ушакі Чэрык.

ЧЫСТЫВАНЬНЯ, -я, *н.* Частаванне. *Ні люблю я ў гысьцях чыстываньня: хачу ем, хачу не, дык прінуждаюць, хуць пумірай — ні атвяжысься.* Слаўнае Мсцісл.

ЧЫСЬЛІНКА, -і, *ж.* Чыслінка, тры ніткі ў кроснах, тры трысцінкі ў бёрдзе. *У гэтым бёрдзе адзінаццаць пасам і тры чысьлінкі.* Краснаполле. *Тры тростычкі — гэта чысьлінка, так шчытаюць.* Парадзіна Мсцісл. *Дзесіць чысьлінак ці трыццыць ніток — ета пасма.* Хвёдараўка Краснап.

ЧЫСЬЦІК, -а, *м. бат.* Чысцец, пустазелле ў льне. *Чысьцік у лёні парос, заглушае лён.* Хвёдараўка Краснап.

ЧЫСЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Чысціць. *Куріца ўжо наелась і дзюбку сваю чысьціць.* Гібалы Касцюк. *Калодзісь узяліс чысьціць, заплыў гразёю.* Машавая Бялынкав.

ЧЫТАЦЬ, *дзеясл.* Чытаць. *Ні засьці мне, ато чытаць цёмна.* Забычанне Касцюк. *Нельга чытаць, ляктрычыства слаба гарыць.* Мсціслаў.

ЧЫХЫУКА, -і, *ж.* Чыхаўка [чых], катар. *Во чыхыўка рызыбрала, нейдзі ветрым прыхапіла.* Палуж Краснап.

ЧЫЦЬВЁРТЫЙ, *прым.* Чацвёрты. *Чыцьвёрты дзень ідзець дождж біспірістаньня.* Тур'я Чэрык. *Чацьвёртыя квадра ныстала.* Ушакі Чэрык.

ЧЫШЧЫНЫЙ, *прым.* Чышчаны. *Во ніряха етый хлопіц, сарочка ў яго грязныя, сыпагі ня чышчаны і штаны ў грязі.* Арцёмаўка Мілаcл.

ЧЭМЕР [чэмір], -у, *м. бат.* 1. Чамярыца. *А быдай ты чэмеру наеўся, калі табе мала.* Қасары Чэрык. 2. Қонская хвароба, боль у жываце. *А ніхай ны цябе чэмер найдзець.* Буліна Қасцюк. *У майго кыня, быдай, чэмір, нешта кычаіцца з жыватом.* Хвёдараўка Краснап.

ЧЭП, -а, *м.* Зашчапка, завала. *Закрый вароты на чэп.* Юравічы Крыч. *Зачыні клець на чэп.* Хвёдараўка Краснап. *Зыкладзі там чэп і засунь колік, ато веціp атчыніць вароты.* Бяседавічы Хоцім.

ЧЭПІК, -а, *м. заал.* Чэпік, бакас. *Сяньні хадзіў ны ахоту, забіў чэпіка.* Хвёдараўка Краснап.

ЧЭПКА, *прысл.* Нязручна ад таго, што чапляецца. *Ні закідай тут вуды, ато січас крючок атарвеш: тут дужа чэпка.* Бяседавічы Хоцім.

ЧЭР, -у, *м.* Грыб-трутавік, прavараны ў попеле, прыгатаваны да высякання агню. *Адзьдзяры етый мушак, выварым яго, дык будзя чэру надыўга. Чэр добря гарыць.* Турэйск Краснап.

ЧЭРАЗСЯДЗЁЛЬНІК, -а, *м.* 1. Падсядзёлак. *Чэразсядзельнік падцягнут нізка.* Слабада Крыч. *Пыправў ны кані чэразсядзельнік.* Журбін Бялынкав. 2. [Пасак], папруга, што падвязваецца для падтрымкі аглабель праз спіну каня. *У мяне парваўся чэразсядзельнік.* Ташна Қлім.

ЧЭРВЕНЬ, -я, *м.* Чэрвень, шосты месяц у годзе. *Суніцы пасьпіваюць к палове чэрвіня.* Куляшоўка Қлім.

ЧЭРІЗ, *прыназ.* Цераз, праз. *Я піряйду ў етым месьці чэріз ряку.* Гібалы Қасцюк. *Чэріз речыньку, чэріз быструю || Тонка кладычка ляжыць.* З нар. песні, М. Г. 6.

ЧЭРНЯ, -і, *ж.* Чорная фарба. *Я купіла чэрні, буду красіць маткі.* Буліна Қасцюк. *Ганна купіла лоту чэрні, дык пыкрасіла ёю восім маткоў пряжы.* Прыпёчына Қлім.

ЧЭРЫКАУ, -ва, *м.* Чэрыкаў. *Гадоў дзесяцьць ныэад пат Чэрыкывым былі нійсхадзімыя лясы.* Палуж Краснап. *Бацька паехыў у Чэрыкыў.* Вербеж Чэрык.

ЧЭСНЫЙ, *прым.* Чэсны, сумленны. *Міхась — чылавек чэсны, такое подлысьці ні зьдзелыіць.* Антонаўка Краснап. *Дос табе адурывыць чэсных людзей.* Лешчынка Мсцісл.

ЧЭСНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Чэснасць, сумленнасць. *Німа ў яго ні чэснысьці, ні совісьці: дыгыварілісь руп у дзень, а зыплаціў па восім грівін.* Арцёмаўка Міласл.

ЧЭСЬЦЬ, -і, *ж.* 1. Сумленнасць. *Як табе ні брыдка? Німа ў цябе ні чэсьці, ні совісьці, хаця б ты людзей пасовісьціўся.* Цацэнь Аршаншчына. 2. Пашана, павага. *Ты кая была чэсьць: пысадзілі на кут, ныпяклі яешні з кыўбасою, гарэлкі далі.* Радзівонаўка Мсцісл.

ЧЭХЛІК, -а, *м.* Верхняя частка жаночай сарочкі да пояса. *Чэхлік пашыла з паркалю, а подтачку кужэльную.* Машавая Бялынкав. *У куфру ляжыць пылатно, атреж і пашый сабе чэхлік, а падбіўку зьдзелыіш з етыга — грубейшыга.* Азерцы Қлім.

ЧЭЦЬВІРА, *лічэбн.* Чацвёра. *У чаўне сядзіць чэцьвіра, а грябець толькі адзін.* Лютня Мсцісл.

ЧЭЦЬВІРЦЬ, -і, *ж.* Чвэрць. *Аршын — чатырі чэцьвірці.* Арцёмаўка Міласл. *На сьпіне ў кыбына сала было ў чэцьвірць, а ны пыдчаровку — пальцы два.* Парадзіна Мсцісл.

# Ш

ША, *выкл.* Ша, ціха. *Ша, дзеці, пірістаньця крычаць, ато гылаву адурылі.* Чыгрынаўка Расням.

ШАБЛЯ, -і, *ж.* Шабля. *Схувай сваю шаблю, што ты ёю выхвыляісься, ато вазьму ды пірылымаю.* Васілеўка Хоцім.

ШАБУЛДЫХ, *выкл.* Бултых, бух. *Шабулдых у ваду!* Палуж Краснап.

ШАВЕЦ, шыўца, *м.* Шавец, майстар, што робіць боты. *Шавец пашыў мне боты.* Куляшоўка Қлім. *Мікіта добры шавец, яму можна даць і добрыя боты шыць.* Затоны Расням. *Я занёс свае боты да шыўца.* Арцёмаўка Міласл. *К яму я ні пынясу шыць боты, ён шавец дренный.* Қапічы Қасцюк.

ШАВОЛЬ, *выкл.* [Шавель], скок. *Ен шаволь с хаты, толькі яго й бачылі.* Хвёдараўка Краснап.

ШАГ, -а і -у, *м.* Крок. *Ен дужа шпарка ходзіць, у яго што шаг, то два аршыны.* Арцёмаўка Міласл. *Ен такій мот, што на кожным шагу абдуріць.* Гібалы Қасцюк. *Атцюль ды нашыга гумна ўсяго дваццыць пяць шагоў.* Бяседавічы Хоцім.

ШАГЫМ, *прысл.* Шагам, ціхай ступою. *Қонь ішоў шагым, а тады, як пыбяжыць, дык я чуць удзержыўся.* Слаўнае Мсцісл.

ШАДРОН, -у, *м.* Шадрон. *Вазьмі шадрону і спляці яму цясёмку.* Лешчынка Мсцісл.

ШАЙКА, -і, *ж.* 1. Ражка. *Вылі памыі ў шайку.* Халдзееўка Қалінінщчына. *Алеся паіла карову з шайкі.* Глінь Қалінінщчына. *Вунь шайка стаіць, вылі туды ету ваду.* Маляцічы Қрыч. *Шайка поўныя памый.* Вінаградаў Міласл. *Зыпарыла ў шайцы мякіны і вынісла сьвіньням.* Сапрынавічы Мсцісл. 2. [Шайка], банда. *Яго сын бан-*

*дзіт, з шайкыю грабіць і людзей забіваіць.* Арцёмаўка Міласл.

ШАЛ, -у, *м.* Шал [шаленства]. *Ны нашыга сыбаку нейкі шал найшоў: кідаіцца на людзей.* Добрае Мсцісл. *Ны яго шал найшоў, нада скызаць ат шалу.* Галынец Краснап. *Ныгыварі яму хлеба ат шалу, яго ўкусіла шалёныя сыбака.* Слаўнае Мсцісл.

ШАЛАПАДЗЕЦ, -дца, *м.* Гультай, абібок. *Шалападца етыга ніяк ні навучыш работыць.* Палуж Краснап.

ШАЛЁНА, *прысл.* Шалёна. *Сяньня мы пыкашывалі шалёна — змахнулі колькі.* Добрае Мсцісл.

ШАЛЁНЫЙ, *прым.* Шалёны [кручаны]. *Дзяцей пакусаў шалёный сыбака.* Касцюковічы. *Шалёны сыбака сьвіньню абкусаў.* Белы Мох Мсцісл. *Шалёныя каровы бодзяцца.* Пухнава Расиян. *Бег шалёный сыбака, дык яго зыстрялілі, ато ён кылі чылавека укусіць, дык і чылавек ашалеіць.* Арцёмаўка Міласл.

ШАЛЕЦЬ, *дзеясл.* Шалець. *Сыбакі пычалі шалець: ужо трэці на етым тыдні ашалеў.* Людагошч Мсцісл.

ШАЛІ, -яў, *мн. л.* Шалі, вагі. *Мяса купілі агулым, а потым рызважылі ны шалі.* Маластоўка Краснап. *Мы пяньку важылі ны шалях.* Гібалы Касцюк.

ШАЛІК, -а, *м.* Шалік. *Ён купіў шалік ны шыю, ды цёплый з мыхрамі ны кынцах.* Арцёмаўка Міласл.

ШАЛУПАХА, -і, *ж.* Шкарупіна. *Аблузгай ты мне шалупаху з яйца.* Пірагова Мсцісл.

ШАЛУПЕЙКА, -і, *ж.* [Скуфейка], шапка, якую носяць манахі. *У цябе шапка ны гылаве, як шалупейка ў мынаха.* Канічы Касцюк.

ШАЛЬ, -і, *ж.* [Шаль], вялікая цёплая хустка. *Маріна купіла сабе шаль.* Нізькі Касцюк.

ШАЛЬМЕЦ, -а, *м.* Шальмец. *І чаго ён толькі ні вытвыряіць, шальмец етый.* Хвёдараўка Краснап.

ШАМАЦЕЦЬ, *дзеясл.* Шамацець, рабіць шум, шоргат. *Чую я, нешта ў кустах шамаціць, аж кусты лумаюцца.* Арцёмаўка Міласл. *Там нешта шамаціць у кустах.* Лапаціна Мсцісл.

ШАМАЦЬ, *дзеясл.* Есці. *Я хачу шамаць, дай мне хоць хлеба кусок.* Касцюковічы.

ШАМЕЛЯХ, *выкл.* Трах. *Я яго шамелях па мордзі.* Палуж Краснап.

ШАМНУЦЬ, *дзеясл.* Шаматнуць, зашамацець. *Нехта ны дваре шамнуў.* Палуж Краснап. *Шамнулі вазочкі ны дваре,|| Пыглядзі, мамычка, ці ні пы мяне.* З нар. песні, М. Г. 24.

ШАМЫТАЦЬ, *дзеясл.* Шаматаць [рабіць шум]. *Нехта там шамачыць у гародзі ў кыныплях.* Хвёдараўка Краснап.

ШАНЕЧКА, -і, *ж.* Торба, невялікі мяшок. *Дзяўчына ныкыпала шанечку бульбы, і тэя ледзь прынесла.* Стары Дзедзін Міласл.

ШАНУВАНЬНЕ, -я, *м.* Шанаванне, павага. *Маё вам шануваньне!* Сохана Мсцісл.

ШАНУВАЦЦА, *дзеясл.* [Шанавацца], высцерагацца. *Шануйся ты людзей хоць трохі.* Хвёдараўка Краснап.

ШАНУВАЦЬ, *дзеясл.* Шанаваць, паважаць. *Хто шануіць сваю асобу, той шануіць і другіх.* Сохана Мсцісл.

ШАНУЮЧЫ ВАС. Шануючы вас [прабачце за сказанае]. *Ета ж, шануючы вас, брыда ні дзеўка.* Зарубец Клім.

ШАНЦІЦЬ, *дзеясл.* Шчасціць [шанцаваць]. *Мне ўсяды шанціць гуляць у карты.* Слаўнае Мсцісл.

ШАНЫВАЦЬ, *дзеясл.* Шанаваць, паважаць. *Ён любіць, штоб яго ўсі шанывалі.* Дубеец Касцюк.

ШАНЬКА, -і, *ж.* Торба, мяшок. *На крюку вісіць шанька.* Халдзееўка Краснап. *Старіц назьбіраў поўныю шаньку хлеба.* Рэкта Калінінщчына. *Вучынь пыклаў кнігі ў шаньку і пашоў у вучылішча.* Новы Дзедзін Міласл. *Я пылажыла сваё кнігі ў шаньку.* Канава Хоцім.

ШАПАВАЛ, -а, *м.* Майстар, які робіць валёнкі. *Шапавалы прышлі к нам валёнкі валіць.* Добрае Мсцісл. *Шапавалы звычайна працуюць увосень.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ШАПАВАЛІЦЬ, *дзеясл.* Займацца вырабам валёнак. *Я ўжо добра наўчыўся шапаваліць, зваліў сабе чорныя валёнкі.* Добрае Мсцісл.

ШАПАТАЦЬ, *дзеясл.* Шаптаць, ціха гаварыць. *Што ты там шапочыш? Кажы, каб усе чулі.* Палуж Краснап.

ШАПКА, -і, *ж.* Шапка зімовая. *Надзівай сяньні шапку, ато холадна будзя.* Бяседавічы Хоцім. *Палож шапку ны паліцу.* Тур'я Чэрык. *Твыя шапка ўжо пачынае выцьмівацць.* Касцюковічы.

ШАПКАВАЦЬ, *дзеясл.* Шапкаваць, знімаць шапку перад кім, кланяцца. *Стану я яго шапкаваць, ніхай ён раньшы пакланіцца.* Палуж Краснап.

ШАПЛЮК, -а, *м.* Сапляк. *Еткыга шаплюка нійдзе німа.* Хвёдараўка Краснап.

ШАПОЦЬНЯ, -я, *н.* Рэзка, сечка [нарэзаная ў сячкарні салома]. *Ты, кабыла, шапоцьня пад'ела, дык бяжы скарэй.* Маластоўка Краснап.

ШАПТАЦЬ, *дзеясл.* [Шаптаць], замаўляць [лячыць шэптамі хваробу]. *Волька ўмее шаптаць, схадзі к ёй, дык іна зыгаворя.* Іванаўка Хоцім.

ШАПЫШНІК, -а, *м.* Шапачнік, майстар, што робіць шапкі. *Завёз заіччу шкурку к шапышніку, штоб зьдзелыў шапку.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ШАРА, -ы, *ж.* Назва дзіцячай гульні. *Толькі зьдзелылі ямычкі, сталі гуляць у шара, дык адзін, як ударыў шараўнёю таму, што на тэй бок шара, у нагу, дык той аж ськіпеў.* Арцёмаўка Міласл.

ШАРАХОНІЦЦА, *дзеясл.* Заносіцца, ганарыцца. *Ого, шарахоніцца, як на дрыжджах.* Бабынічы Мсцісл.

ШАРОЙКА, -і, *ж.* Абдзіркі з грэчкі, калі яе робяць на крупы. *Пуд шаройкі дваццаць капеік стоя.* Палуж Краснап.

ШАРОХЫЦЦА, *дзеясл.* Таўчыся, церціся. *Мыльгва ета шарохыіцца пыд ныгамі.* Хвёдараўка Краснап. *Нешта шарохыіцца ў бярэзьніку.* Хвёдараўка Краснап.

ШАРСЬЦЕНЬ, -я, *м.* Шэршань. *Ні хачу я з ім гываріць: шарсьцень, а ні чылавек.* Палуж Краснап.

ШАРУ́Б, -а, *м.* Шруба. *Етый шаруб дужа туга закручыный, адпусьці німнога.* Мануйлы Краснап.

ШАРХ, -а, *м.* [Шарф], шалік. *Хлопцу купілі новы шарх.* Машавая Бялынкав.

ШАРШАТКА, -і, *ж.* [Шаршатка], вялікая іголка. *Ці німа ў цябе шаршаткі, хачу мяшок пашыць.* Буліна Касцюк. *Дужа суровыя пылатно, трэба сшываць шаршаткыю.* Палуж Краснап.

ШАРШЭПКА, -і, *ж.* Гэблік. *Прынясі шаршэпку, пачысьціць дошку нада.* Людагошч Мсцісл.

ШАРЫЦЬ, *дзеясл.* Шукаць. *Упацёмку шарыў, шарыў, ні знайшоў.* Гарадзецкая Краснап.

ШАРЭ́Ш, -а, *м.* Шарэш, згусткі лёду перад замярзаннем вады ў рацэ. *Шарэш ужо пашоў, скора рыка замерзьніць.* Барысавічы Клім. *Сяньня ўжо шарэш ны рацэ, скора пычанём езьдзіць цераз.* Юшкі Мсцісл.

ШАСНАЦЦАЦЬ, -і, *ліч.* Шаснаццаць. *Купілі шаснаццаць хунтаў ціляціны.* Старае Сяло Мсцісл.

ШАСНУЦЬ, *дзеясл.* Шуснуць. *Ішоў кыля рэчкі, асьлізнуўся нейк ды шаснуў у ваду.* Вербеж Чэрык.

ШАСТАЦЦА, дзеясл. [Матляцца], хістацца. *Пыцапыйся за дошку, як шастаецца.* Хвёдараўка Краснап.

ШАСЬЦЁРКА, -і, *ж.* 1. Шасцёрка назва карты. *У мяне была казырныя шасьцёрка.* Паўлавічы Клім. 2. Шасцярык. *Шасьцёрка коні запрэжына ў гырмату.* Зоры Чэрык.

ШАСЬЦЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Шасцець, шалясцець. *Сяньні так ціха, што й трыва ні шасьціць.* Брылёўка Краснап.

ШАСЬЦІНЫ, -ін, *мн. л.* Памінкі па нябожчыку на шостым тыдні па смерці. *Сяньні Праскута шасьціны па мужыку спрыўляіць, ужу шэсьць нядзель, як ён памёр.* Арцёмаўка Міласл.

ШАСЬЦЬ, *выкл.* Шась. *Хадзіў з руж жом, тады толькі стаў цэліць у зайца, а тут — шасьць яму воўк!* Арцёмаўка Міласл.

ШАСЬЦЯРЫ́К, -а, *м.* Шасцярык, шасцёрка коней. *Антон ны сваім хутары дзержа шысьцярык коній.* Маластоўка Краснап.

ШАСЭЙНЫЙ, *прым.* Шасейны. *Пы шасэйнай дарозе ны калёсах надта дрогка ехаць.* Сохана Мсцісл.

ШАЎКОВЫЙ, *прым.* Шаўковы. *Ета шнурок шаўковы.* Вербеж Чэрык. *У яе платок шаўковы.* Зяціца Мсцісл. *Шаўковыя нітычка к сьцяне льнець.* || *Марыйчка татухну чалом б'ець.* || *Адбіла чалом зы сталом,* || *Скызала дыбраныч зы дваром.* З нар. песні, М. Г. 28.

ШАЎКЫЛА, -а, н. Шамкала. *Ён нейкій шаўкыла.* Хвёдараўка Краснап.

ШАЎМОГА, -і, *ж.* Кляча. *Ні вязець твыя шаўмога, мала ты яе ныкарміў.* Барысавічы Мсцісл.

ШАФА, -ы, *ж.* Шафа. *Павесь адзежу ў шафу.* Крычаў. *У шафу вешаюць вопратку.* Рачкавічы Случчына.

ШАХВА, -ы, *ж.* Шафа. *Ета шахва стаіць ні на месьці, яе нада пыставіць вунь там лі сьцяны.* Зоры Чэрык. *Пыстаў, Дуня, блюды ў шахву.* Новыя Капачы Мсцісл. *Вазьмі сваю шубку і павесь у шахву.* Студзянец Касцюк.

ШАХВЕР, -а, *м.* [Шафер], паджанішнік [дружка жаніха]. *Хто ў цябе будзець зы шахвера ны свадзьбі?* Глінь Калініншчына.

ШАХО́РЫЦЦА, *дзеясл.* Шалясцець, шамацець. *Нешта шахорыцца ў бярэзьніку.* Хвёдараўка Краснап.

ШАХО́РЫЦЬ, *дзеясл.* Шалясцець, шукаючы [шукаць з шамаценнем]. *Чаго ты там шахорыш?* Хвёдараўка Краснап.

ШАХЦЕР, -а, *м.* Шахцёр. *Мой шахцёр ужо прыехаў, а ўзімку зноў паедзіць ны шахты.* Бяседавічы Хоцім.

ШАШКА, -і, *ж.* Шашка. *У Васі была дзерявяныя шашка.* Шарэйкі Касцюк.

ШАШКІ, шашык, *мн. л.* Шашкі. *Ён добра гуляіць у шашкі.* Шарэйкі Краснап.

ШВАГІР, -гра, *м.* Швагер. *Майго швагра ўзялі ў сылдаты, дык нада памоч цесьцю касіць, ато ён цяпер саўсім абясьсіліў.* Бяседавічы Хоцім. *Мой швагір паехыў у горыд.* Малюшын Краснап. *Ны нашыга швыгра найшло нейкыя нытханьня, ні п'ець, ні есьць, сядзіць і ўсё думаіць.* Добрае Мсцісл.

ШВА́ГРА, -а, *м.* Швагер. *Мой швагра нешта заніпаў, баюсь, каб сістра ўдавою ні зыстылася.* Лешчыпка Мсцісл. *Маёй жонкі брат даводзіцца мне швагрім.* Слаўнае Мсцісл.

ШВАГО́Р, -а, *м.* Швагер. *У мяне швагора німа, жонка мая адна ў бацькі, братоў яе ні було.* Арцёмаўка Міласл.

ШВАГРЭ́НЯ, -і, *ж.* Жонка швагра. *Ды нас прыехаў у госьці швагер з швагрэняю.* Сохана Мсцісл.

ШВАЙКА, -і, *ж.* Швайка. *Мой дзед пляце кошыкі швайкыю, дык і ладна выходзіць.* Барысавічы Клім.

ШВАЧКА, -і, *ж.* Швачка. *Намётка ў прачкі, сарочка ў швачкі.* Новы Свет Краснап. *Швачка шые кепска.* Шумячы.

ШВА́Я, -і, *ж.* 1. Тоўстае бервяно. *Я такую шваю зыгатовіў, што шасьцёркаю ня возьміш.* Горкі Краснап. 2. Шэсць сажняў дроў. *Высек шваю дроў.* Хвёдараўка Краснап.

ШВІДКА, *прысл.* Хутка [скора]. *Мы ішлі дахаты вельмі швідка.* Быкавічы Мсцісл.

ШВО́РЫН -а, *м.* Шворан. *Шворын выскачыў, конь пабег с пірядком, а воз абярнуўся.* Бяседавічы Хоцім. *Сёньня ў мяне шворын у калёсах зламіўся, прышлось воз сірід дарогі пакінуць.* Добрае Мсцісл.

ШВЫДКА, *прысл.* Хутка, скора. *Швыдка ты зьвярьнуўсь, мыладзец.* Восаў Краснап.

ШВЫ́ДКІЙ, *прым.* Хуткі, скоры. *Хлопіц ён швыдкій — ураз зьлётыіць.* Аляксандраўка Краснап.

ШВЫ́ДКЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Хуткасць, скорасць, вёрткасць. *У хлыпца швыдкысьць у кысьцях сядзіць: ён на месьці ні ўсядзіць, усё верыцціца.* Клясін Краснап.

ШВЫРАНО́К, -а, *м.* Памянш. ад шворан. *Рыгор, глядзі швыранок з грабёнкі каб ня пацяраўся.* Бязводзічы Мсцісл.

ШВЫРГАЦЬ, *дзеясл.* Шпурляць, кідаць. *Ен расьсердзіўсь, што ны яго крываць пылажылі адзежу, ды як пычаў швыргаць ў парог.* Арцёмаўка Міласл.

ШВЭНДЭЛКА, -і, *ж.* [Шыдэлак], кручок для вязання. *Вяжы сабе маёй швэндэлкай, толькі ні зламай.* Мсціслаў.

ШКАБА, -ы, *ж.* Скаба [кандыба], худы конь. *Ета ня конь, а шкаба.* Хвёдараўка Краснап.

ШКАДАВАЦЬ, *дзеясл.* Шкадаваць. *Мае бацькі сыстарэліся, іх нада шкадаваць.* Пірагова Мсцісл.

ШКАДЛІВЫЙ, *прым.* Шкодны. *Шкадлівы чылавек.* Міцькаўшчына Мсцісл.

ШКАДУВАЦЬ, *дзеясл.* Шкадаваць. *Наш атопшчык зусім ні шкадуя дроў.* Старае Сяло Мсцісл. *Што ты шкадуіш падыгнаць сваю клячу?* Ушакі Чэрык.

ШКАЛІК, -а, *м.* 1. [Шкалік], чарка. *Новенькі шкалік разьбіўся — нечым цяпер гарэлку піць.* Добрае Мсцісл. 2. Невялікая пляшачка, [бутэлечка]. *Узяў зельля ў шкалік.* Хвёдараўка Краснап.

ШКАНДАЛ, -у, *м.* Скандал. *Ой, якей шкандал быў.* Хвёдараўка Краснап.

ШКАНДАР, -а, *м.* Кавалак бервяна, што закопваецца пад вуглы будынка. *Шкандары ў хаце згнілі, вуглы аселі.* Крычаў.

ШКАП, -а, *м.* Шафа. *У шкапе вісіць адзежа.* Хоцімск. *Столір зьдзелый нам адзежный шкап.* Слаўнае Мсцісл. *Нешта ў мяне шкап ні паліруецца.* Лешчынка Мсцісл.

ШКАПА, -ы, *ж.* Шафа. *Павесь кохту ў шкапу.* Буліна Касцюк.

ШКАРІДЗЬ, -і, *ж.* Скнара, скупы чалавек [і нікчэмнасць]. *Грошы пойна ў етый шкарідзі, а жывець хужы злыдня — сам сабе есьць жалеіць.* Горкі Краснап.

ШКАРПЭТКІ, -так, *мн. л.* Шкарпэткі. *Адзень цёплыя шкарпэткі.* Буліна Касцюк. *Якія ты шкарпэткі надзеў, пальцы тырчаць. Набуй другія, а етыя нада зацуруваць.* Зяціца Мсцісл.

ШКАРЫД, -а, *м.* [Скнара], скупы чалавек [і нікчэмнасць]. *Ня йдзі ты к яму і ні прасі, усё роўна ні дасьць: што ўжо шкарыд, дык закрый бог!* Пірагова Мсцісл. *Ен яшчэ шкарэд, чаго ты зь яго хочыш?* Хвёдараўка Краснап.

ШКАРЭДЗЬ, -і, *ж.* [Скнара], нікчэмнасць. *Каб хто гыварыў людзкі, ато шкарэдзь етыя.* Тур'я Чэрык. *Шкарэдзь ты!* Хвёдараўка Краснап.

ШКВАРКА, -і, *ж.* Скварка, кусочак печанага сала. *Баба ны закус дыла пы шкваркі сала. Ета ні сала, а шкваркі.* Палуж Краснап.

ШКВАРЫНЫЙ, *прым.* Скварany, печаны. *Калі хочыш, дык еж шкварыныя сала, там стаіць ны скыўрадзе.* Пірагова Мсцісл.

ШКВАРЫЦЬ, *дзеясл.* Скварыць, пячы. *Як толькі мы прышлі, дык іна зараз дыстала сала, кыўбасу і дывай шкварыць ны загнеткі.* Белы Камень Бялынкаў.

ШКВЯРЦІСЬ, *дзеясл.* Скварціся [крактаць]. *Курапы шквяруцца ў балоці.* Палуж Краснап.

ШКЕЛЬНІЧЫЦЬ, *дзеясл.* Кпіць, пасміхацца. *Кінь ты над ім шкельнічыць, ато ён січас зыплачыць.* Бяседавічы Хоцім.

ШКЕТ, -а, *м.* Малеча, невялікі хлапчук. *Ах ты шкет, і ты сюды ўмазыўся.* Хвёдараўка Краснап.

ШКІЛЕТ, -а, *м.* Шкілет, худы. *Жонка яго ляпёха — ляпёхай, а сам шкілет.* Хвёдараўка Краснап.

ШКІПІНАРЬ, -ю, *м.* Скіпідар. *Ат прастуды нада шкіпінарім цела добря нацерьці і добря ўкрыціца ноччу, штоб ріпацець.* Бяседавічы Хоцім.

ШКЛО, -а, *н.* Шкло. *Шкло нейкыя цьмяныя, праз яго нічога ня відна.* Гарадок Раснян. *Шкло ў раму далі паставіць добрае.* Кажамякіна Краснап.

ШКЛЯНКА, -і, *ж.* Шклянка, стакан. *Шклянка разьбілась.* Хоцімск. *Пыстаў шклянку на спадак, ато ні дынясеш.* Сідараўка Калінінщчына.

ШКЛЯНЫЙ, *прым.* Шкляны. *Пынавешыла на шыю шкляных кралік, аж шыю гнуць.* Слаўнае Мсцісл.

ШКЛЯНЫЧКА, -і, *ж.* Памянш. ад шклянка. *Тыкая прыгожыя была шкляночка, ды пабілась.* Буглаі Краснап.

ШКЛЯР, -а, *м.* Шкляр. *Нешта шкляр ня едзіць, нада вокны ны зіму ладзіць.* Слаўнае Мсцісл.

ШКОДА, -ы, *ж.* і шкод, -у, *м.* 1. Шкода, страта, бяда. *У нас шкода: конь зайшоў у пшаніцу і зьеў целыя гоні.* Лапаціна Мсцісл. *Якей ты вапрук, дзе ні павернісься — шкоду наробіш.* Хвёдараўка Краснап. *Коні надзелылі шкоды: пытыптаі і паелі авёс.* Слаўнае Мсцісл. 2. Тое, што можна патравіць. *Ня путый тут коні, тут шкода блізка.* Лешчынка Мсцісл. *Пыглідай тут ны майго кыня, штоб у шкоду ні зайшоў.* Аляксандраўка Краснап.

ШКОДА, *прысл.* Шкода. *Дужа шкода мне часу.* Сохана Мсцісл. *Мне шкода свайго брата.* Чыгрынаўка Раснян. *Шкода было прадаваць кыня, але нічога ня зробіш — грошы патрэбны.* Сохана Мсцісл.

ШКОДЗІЦЬ, *дзеясл.* Шкодзіць, перашкаджаць. *Атламі ету хлыбазіну, ато іна шкодзіць.* Чыгрынаўка Раснян. *Ты ідзі ды пад ногі глядзі — асьцярожнысьць ніколі ні шкодзіць.* Старае Сяло Мсцісл.

ШКОДНА, *прысл.* Шкодна. *Ен ні глядзіць, шкодна ета ці не, валіць ныпрямік.* Бяседавічы Хоцім.

ШКОЛА, -ы, *ж.* Школа. *Вучні бягуць у школу з торбамі.* Крычаў. *Чаму ты сёньня ў школе ня была? Ня было ў вошта набуцца.* Канава Хоцім.

ШКРАБ, -а, *м.* Месца, падрапанае сабакам. *Піряйшоў ціраз шкраб, будзіш шкрабыцца.* Хвёдараўка Краснап.

ШКРАБНІЦА, -ы, *ж.* Скрабніца. *Тут хоць шкрабніцый шкрабі, і то нічога ня выйдзя.* Хвёдараўка Краснап.

ШКРАБЫЦЦА, *дзеясл.* [Шкрабацца], скрабацца [скрэбціся]. *Схадзіў бы ты ў лазьню, ато шкрабыцца ўвесь час.* Парадзіна Мсцісл. *Піряйшоў ціраз шкраб, будзіш шкрабыцца.* Хвёдараўка Краснап.

ШКРАБЫЦЬ, *дзеясл.* Шкрабаць, скрабаць [скрэбсці]. *Пычаў ужо шкрабыцьногі — кымары накусалі.* Парадзіна Мсцісл.

ШКРЫ́ДА, -ы, *ж.* Неахайны чалавек. *Ходзіць шкрыдай, ніколі ні прыбярэцца.* Горкі Краснап.

ШКРЫЛІ́, -ёў, *мн. л.* [Скрылі], бульба смажаная, нарэзаная тонкімі скрылікамі. *Сяньні к абеду будуць шкрылі.* Дзеражна Касцюк. *Мама, зжар сяньні на сьніданьня шкрылёў.* Нізькі Касцюк.

ШКРЫЛЬ, -я, *м.* Скібка, луста. *Атрэзыў шкрыль хлеба і пабег на вуліцу.* Хвёдараўка Краснап.

ШКРЭД, -а, *м.* Малы. *Ні бяры ты с сабой шкрэда етыга.* Хвёдараўка Краснап.

ШКУДУВАЦЬ, *дзеясл.* Шкадаваць. *Мне нечыга шкудуваць, што я ні паехыў у зыработкі, я ў дваре бо́льш зыраблю.* Арцёмаўка Міласл.

ШКУНТ, -а, *м.* Дробка, малая колькасць. *Ні шкунта ні дыбаўлю болей: плач ні плач.* Хвёдараўка Краснап.

ШКУРАДЗЁР, -а, *м.* Скурадзёр, скуралуп, чалавек, які выкарыстоўвае цяжкі стан другіх і бярэ з іх дорага за паслугі. *Пра новага хвершала чутна, што ён шкурадзёр.* Сохана Мсцісл.

ШКУРАТ, -а, *м.* Шкурат, скурат. *Хлапчук нашоў шкурат, ны набойку гадзіцца.* Вінаградаў Міласл. *Ці няма ў цябе шкурата на латку ў чаравік?* Вербеж Чэрык. *У Кузьмы ат чыбатоў атырвайся шкурат.* Гібалы Касцюк.

ШКУРЁХА, -і, *ж.* Жанчына лёгкіх паводзін. *Шкурёха ета валочыцца с усімі.* Хвёдараўка Краснап.

ШКУРКА, -і, *ж.* Памянш. ад шкура. *Заячу шкурку купіў, аблавуху ізьдзелыю.* Мсціслаў. *Якое на ім сала, шкурка адна.* Вінаградаў Міласл.

ШКУРЦІНАЯ МЫШ, *заал.* Кажан [лятучая мыш]. *Шкурціная мыш прыляцела, за вылосы мне зычапіла.* Гарадок Расняп. *Хлопцы спыймалі шкурціную мышу.* Хвёдараўка Краснап.

ШКУ́ЦІК, -а, *м.* Невялікі кавалак матэрыі, шматок. *Пыйшла ды ўзіла шкуцік, можа хуста й выйдзя.* Беразяк Краснап.

ШКЫМАРДЗІЦЬ, *дзеясл.* Раздзіраць на кавалкі, на шкуцце. *Сыбака кошку спыймаў ды шкымардзіць.* Палуж Краснап.

ШКЫМЫТАЦЬ, *дзеясл.* Шкумаціць, раздзіраць на шматкі. *Нашто ета шкымытаць было сарочку.* Палуж Краснап.

ШКЫРЬНЯ́К, -а, *м.* Гарбар. *Сямён аўчыну атдаў шкырьняку на выріб, а той недзі зьехыў, дык і аўчыны прыпалі.* Палуж Краснап.

ШКЫ́РЯ, *выкл.* Шкыра, ашкыра (ужываецца, калі адганяюць авец). *Шкыря, шкыря, шкыря ат парога!* Стары Дзедзін Міласл. *Іна гнала, гнала авец і крычала на іх шкыря!* Арцёмаўка Міласл.

ШЛАМБОН, -а, *м.* [Шлагбаум]. *Шламбон на переезьдзе зачынін, знаць, скора поізд пайдзець.* Куляшоўка Клім.

ШЛЁГА, -і, *ж.* Сляга, слегавіна. *Шлега ў гумне пагнулысь і крыша асела.* Хвёдараўка Краснап.

ШЛЕ́ЙКІ, -ік, *мн. л.* Падцяжкі. *Шлейкі пырваліся, і штаны зьі́жджаюць.* Бялішчына Мсцісл.

ШЛЕПАНЦЫ́, -оў, *мн. л.* Пантофлі. *Нашто мне зьвізала такія бальшыя шлепанцы?* Новае Сяло Мсцісл.

ШЛІХЫТАЦЬ, *дзеясл.* Булькатаць, пузырыцца. *Як уклаў дрожджы ў сымагонку, дык і пычыла іна шліхытаць.* Слаўнае Мсцісл.

ШЛІЯ́, -і, *ж.* Шляя. *Шлія пырвалыся пры спуску з гары.* Бязводзічы Мсцісл. *Пупраў шляю ны кані, ато зьехыла набык.* Бяседавічы Хоцім. *Уся шлія пырвана і запреч кыня неяк.* Ташна Клім.

ШЛУД, -а, *м.* Малы хлопец, дзіця. *Шлуд етый лазя ўсюды.* Хвёдараўка Краснап.

ШЛУ́НЬНЯ, -яў, *мн. л.* Трыбухі [унутранасці]. *Так цяжка было падымаць, чуць шлуньня сваё не падырваў.* Гібалы Касцюк.

ШЛУ́ПІК, -а, *м.* Слабы, слабасільны. *Ну, й шлупік жа ты, два пуды ні падымеш.* Пацкава Мсцісл.

ШЛЫГАНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Шлеганупь, выцяць. *Шлыгані коніка, ніхай бяжыць хутчэй.* Палуж Краснап.

ШЛЫ́ГІНА, -ы, *ж.* Абчасаны кол, падрыхтаваны для гнуцця полаза. *Дужа ўжо шлыгіна, ні сагнеш яе.* Ташна Клім.

ШЛЫК, *выкл.* Шмыг [нырк]. *Пыд вароты шлык — і німа!* Тур'я Чэрык.

ШЛЫ́НДАЦЬ, *дзеясл.* Шлындаць, хадзіць сюды-туды без патрэбы. *Ён толькі і ведае, што ўвесь дзень шлындаць па вуліцы.* Цацэнь Аршаншчына. *Ныдаела мне вельмі шлындаць то сюды, то туды.* Канава Хоцім. *Айдзе ты шлындаў даетуль?* Кокатава Мсцісл. *Нічога ня дзелыіць, шлындыць пы дзяреўні, а ў зыработкі ня хочыць схадзіць.* Арцёмаўка Міласл.

ШЛЭПТУХІ́, -аў, *мн. л.* Пантофлі, вязаныя з нітак. *Дзецям падзелылі шлэптухі з нітак.* Кокатава Мсцісл.

ШЛЮП, -у, *м.* Шлюб. *Максім узяў шлюп з Агатай.* Янаўка Мсцісл.

ШЛЮПЧЭ́ЦЬ, *дзеясл.* Хлюпаць [хлюпцець]. *Шлюпчыць пыд ныгамі гразь.* Слаўнае Мсцісл.

ШЛЯ́ПА, -ы, *ж.* Капялюш. *У цябе, брат, шляпа, як у пупа брыль.* Слаўнае Мсцісл.

ШЛЯПТУ́Х, -а, *м.* Абадранец. *Максім раней ого як ныдзівайся, а цяпера дык шляптух-шліптухом.* Крычаў.

ШЛЯХ, -у, *м.* 1. Шлях, дарога. *Шлях шырокі, бярозымі абсаджыный.* Хоцімск. *Ны шляху рос вісокій бірізьняк.* Слаўнае Мсцісл. 2. Жыццёвая дарога. *Цяжкі шлях на маім жыцьці спыткаў мяне.* Добрае Мсцісл.

ШЛЯ́ХТА, -ы, *ж. зборн.* Шляхта. *У етай дзяреўні жывець адна шляхта.* Пірагова Мсцісл.

ШЛЯ́ХЦІЦ, -а, *м.* Шляхціц. *Гэта ж Галіноўскі, шляхціц з Пячкоўкі.* Мсціслаў. *Наш Мікола, як тэй шляхціц, дужа ўжо стаў дылікатнічаць.* Лешчынка Мсцісл.

ШМАЙКА, -і, *ж.* Селядзец. *Шмайкі з хунт нада купіць ны закуску.* Гарадок Расняп. *У вялікі пост сяляне часта купляюць шмайку.* Магілёў.

ШМАНДАПІПКА, -і, *ж.* Задзёрты нос. *У яго ня нос, а шмандапіпка, як у заводзкай сьвіньні пітачок.* Маластоўка Краснап.

ШМАРЯВІДЛА, -а, *н.* Шмаравідла, мазь для калёс. *Во шмарявідла, вазьмі і падмаж калёсы.* Лешчынка Мсцісл.

ШМАТ, -а, *м.* 1. Шматок, кавалак матэрыі. *Матка атрезыла шмат пылатна і пашыла кайстру.* Гібалы Касцюк. *Я парезыла серпым руку, дык ні было чым зывярцець, дык я атырвала шмат ат кохты і зывярцела.* Арцёмаўка Міласл. *Сыбакі пырвалі маю спадніцу ны шматы.* Слаўнае Мсцісл. 2. Кавалак наогул. *Атрэзыў шмат сала і зьеў. Ладный шмат зямлі ўзырай.* Палуж Краснап. *У яго вялікій шмат крэйды.* Віхраны Мсцісл.

ШМАТ, *прысл.* Шмат, многа. *Я нылавіў шмат ласкуткоў.* Тур'я Чэрык. *Ля рэчкі расьцець лыза, там яе шмат.* Верба Расьнян. *У нас кыля двыра расьцець шмат сін (асін).* Белы Камень Бялынкав. *Сёліта ў цябе, Ігнат, шмат саломы, прыдай мне з воз.* Белы Мох Мсцісл. *У гаю сёліта шмат суніц.* Шумячы.

ШМОРГНУЦЬ, *дзеясл.* Шмаргануць. *Шморгнуў сярнічку, а йна ні зыпалілась.* Палуж Краснап.

ШМОРКА, -і, *ж.* Абрывак вяроўкі. *Сыбаку прывяжы на шморку, каб ня кідаўсь ны людзей.* Хвёдараўка Краснап.

ШМОРЫН, -а, *м.* Шворан, жалезны прут, які праходзіць праз падушку ў пярэднюю вось. *Шморын пераламіўся.* Пухнава Расьнян. *Шморын сагнуўся, і вось выкруцілысь.* Дарагая Крыч. *Нада йшчэ зьдзелыць падзьдзёлык пыд падушку і шморын.* Хвёдараўка Краснап.

ШМОТКА, -і, *ж.* [Шмотка], анучка. *Вазьмі ты шмотку ды вытры мост, бачыш дзіцёнык надзелыў.* Пячонкі Расьнян.

ШМУЛЯНЬНЯ, -я, *н.* Шмулянне [трэнне]. *Ат шмуляньня аб жэрдзь задоўка перарвалыся.* Сохана Мсцісл.

ШМУРЧЭЦЬ, *дзеясл.* Цурчэць, цячы з шумам. *Ручай шмурчыць у траве.* Горкі Краснап.

ШНУР, -а, *м.* Шнур. *У муліра й прілады ўсяго, што кельня ды мылаток, ды яшчэ вінкіль ды шнур.* Паходавічы Чэрык.

ШНУРКІ, -оў, *мн. л.* Шнуры, тоўстыя ніці з кручкамі, на якія насаджваецца прынада для лоўлі рыбы. *Пайдзём пыставім шнуркі, мо што й пыймаім на сьціданьня.* Тур'я Чэрык.

ШНУРОЎКА, -і, *ж.* Кароткая адзежына без рукавоў, жаночая камізэлька. *Надзень шнуроўку, будзя цяплей.* Буглаі Краснап. *Пашыла сабе на зіму шнуроўку.* Хвёдараўка Краснап.

ШНУРЫ, -оў, *мн. л.* Пасы з нітак на калаўроце. *Ны сымыпряткі шнуры пырвалісь, нада нысучыць нітык ды зьдзелаць другея.* Арцёмаўка Міласл.

ШНЫПАР, -а, *м.* Штопар. *Тупы некі ваш шныпар — ні ўкруціць у пробку — німа чым і бутэльку адчыніць.* Ушакі Чэрык.

ШОЛЫХ, -а, *м.* Шолах, шэлест. *Спаў я ў саду, прашнуўся і чую некій шолых у кустах — кусты лумаюцца.* Арцёмаўка Міласл.

ШОПТ, -у, *м.* Шэпт, шопат. *Чую шопт, а рызыбраць, што гаворуць, ні магу.* Паходавічы Чэрык. *Ен мне кызаў шоптым, а ўсе пачулі.* Хвёдараўка Краснап.

ШОРНІК, -а, *м.* Рымар. *У нас учора цэльный дзень працувалі шорнікі, зшылі дзьве сядзёлкі і два хамуты.* Асмолавічы Мсцісл.

ШОРСТКА, *прысл.* Шорстка, нявeтліва. *Шорстка яго спыткалі там, больш ні пайдзець.* Маластоўка Краснап.

ШОРСТКІЙ, *прым.* Шорсткі, нявeтлівы. *Мікіта, як пабыў у горыдзі, дык шорсткім стаў: ні з кім ні прывітаецца па-людзку.* Антонаўка Краснап.

ШОРЫХ, -а, *м.* Шолах [шэлест]. *Я чую шорых: хто йта ходзіць.* Дубеец Касцюк.

ШОСТ, -а, *м.* 1. Доўгі кій, жэрдачка. *Там нейкі хлопец заліўся, шукаюць шастом.* Мсціслаў. 2. Шашаль, чэрвяк, што точыць драўніну. *Шахву шост паеў ушчэнт— адны дзіркі.* Белы Камень Бялынкав.

ШОСТКА, -і, *ж.* [Шасцёрка], назва карты. *Мы ігралі ў карты, дык ён шосткую хацеў накрыць дзівятку, во жулік.* Арцёмаўка Міласл.

ШОУК, -у, *м.* Шоўк. *Я ныбрала сабе шоўку на кохту.* Паходавічы Чэрык.

ШОЎКАВЫ, *прым.* Шаўковы. *Шаўковыя хустка пі́ліскуецца на сонцы.* Куляшоўка Клім. *Як адлупцувалі раз, дык ён стаў, як шоўкавый.* Палуж Краснап. *Іна купіла сабе шоўкывую кохту.* Касперка Міласл.

ШПАК, -а, *м.* Шпак. *Шпак жыў на дубе.* Слабада Расьнян. *Тата, тата, сёньня вельмі добра шпак сьвішчыць!* Новыя Капачы Мсцісл. *Ужо шпакі прыляцелі.* Казённая Буда Краснап.

ШПАКУЛЫ, -аў, *мн. л.* Акуляры. *Купіў сабе шпакулы, можа лепш бачыць буду.* Краснаполле.

ШПАЛЕРЫ, -аў, *мн. л.* Шпалеры, абоі. *Рызбыгацеў Васіль — раней хата беліныя была, а цяпер усюды шпалерамі абклеіў.* Старае Сяло Мсцісл. *Мы купілі шпалеры ны адну комныту.* Людагошч Мсцісл.

ШПАНКА, -і, *ж.* Піла папярочная. *Прынясі шпанку, пілываць дровы будзім.* Тур'я Чэрык.

ШПАР, -а, *м.* Шпар [паз]. *Раней нада выбраць шпар ў шулі, а тады закопваць, а ты раней закыпаў. Як жа ты шпар зьдзелыіш?* Немерка Расьнян. *Бяры пешню ды выдзелывай шпар у шуле, а я буду цісаць другоя.* Буглаі Краснап.

ШПАРІЦЬ, *дзеясл.* Шпарыць, шпарка бегчы [ісці]. *Конь шпаріць галопым.* Слаўнае Мсцісл. *Сёмка шпаря ў Мыластоўку.* Палуж Краснап.

ШПАРКА, *прысл.* Шпарка, хутка. *Яна ўжо шпарка моіць беч.* Дзягавічы Крыч. *На етым кані шпарка ні паедзіш.* Дубеец Касцюк. *Але ж во шпарка ходзіць — чуць дыгнаў!* Парадзіна Мсцісл. *Мой конь бегыіць шпарка.* Барысавічы Клім. *Пойдзем шпарчэй, ато не дайдзем да вечыра.* Янаўка Мсцісл. *А ну-ка, хлопцы, хто шпарчэй пыбяжыць?* Кокатава Мсцісл. *Жні шпарчэй постаць, скора вечар будзя.* Лапаціна Мсцісл.

ШПАРКЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Шпаркасць, дасціпнасць. *Яго шпаркысць яму заўсёды шкодзіць — суецца, куды ня трэба.* Добрае Мсцісл. *Спрытнасьць рук і шпаркысьць — і больш нічога ня трэба* Мышкі Расням.

ШПАРЫЦЬ, *дзеясл.* Шпарыць, шпарка [бегчы], ісці. *Сёмка шпаря ў Мыластоўку.* Палуж Краснап.

ШПІГІНАР, -у, *м.* Скіпідар. *З смаловых пнёў спычатку ідзець выда, а тады шпігінар.* Зарэчча Мсцісл.

ШПІГОЎСТВА, -а, *н.* [Шпікаванне], шпіёнства. *Ні люблю шпігоўства, штоп пыдглядывыць за кім — ета агідна.* Бардзіч Краснап.

ШПІГЫВАЦЬ, *дзеясл.* Шпікаваць, сачыць. *Нада зы зладзеімі шпігываць лоўка, штоб яны ні замецілі.* Слаўнае Мсцісл.

ШПІЁН, -а, *м.* Шпік. *Шпіён ніатступна ішоў усьлед.* Слаўнае Мсцісл.

ШПІЛЬКА, -і, *ж.* Шпілька. *Я пацірала дзьве шпількі з гылавы.* Добрае Мсцісл. *На хоць шпількай прышпілі спадніцу, ато згубіш.* Ушакі Чэрык.

ШПОНКА, -і, *ж.* Гузік, зроблены з ніток. *Ушый яму дзьве шпонкі ў сарочку, ато ходзіць расхрыстан.* Бяседавічы Хоцім. *Гузіка німа, дык ты з нітык шпонку зьдзелый ды ўшый.* Касперка Міласл. *У кыўняры атырвалыся шпонка.* Сабалёўка Краснап.

ШПУГ, -а, *м.* Планка, што забіваецца ў шпар упоперак дзьвярэй, каб не касіліся. *Нада ўставіць шпуг у дзьверы.* Хвёдараўка Краснап.

ШПУЛЬГНУЦЬ, *дзеясл.* Шпульнуць, кінуць. *Ен як шпульгнуў у мяне камнім, дык чуць ні забіў.* Хвёдараўка Краснап.

ШПУЛЬКА, -і, *ж.* Шпулька. *Дзьве шпулькі нітак нымытала.* Хвёдараўка Краснап.

ШПУНТ, -а, *м.* Шпунт. *Шпунт туга дужа забіт, ні таткнуць.* Куркаўшчына Мсцісл. *Ныбяры ў біклагу вады ды заткні добра шпунтым, каб ні вылівалыся.* Янава Расням. *Ня будзь ты пад усі бочкі шпунтым!* Сохана Мсцісл.

ШПЭКТЫР, -а, *м.* Інспектар. *Сёньня быў у нашый школе шпэктыр.* Людагошч Мсцісл.

ШПЭНТЭЛЬ, -я, *м.* Шомпал. *Нада зьдзелыць у мушкет новый шпэнтэль.* Хвёдараўка Краснап.

ШРАПНЕЛЬ, -і, *ж.* Шрапнель. *Пупаў ашкрётык шрапнелі ў нагу.* Хвёдараўка Краснап.

ШРОТ, -у, *м.* Шрот. *Здабыў порыху, шроту, пайду заўтрі на пыліваньня.* Немерка Расням.

ШРУБ, -а, *м.* Шруба. *Хоць і новым шрубым зьвінцілі мы ў калёсых расколатую падушку, але нарэзы такія малыя, што зразу адпусьціла.* Добрае Мсцісл.

ШРУБСТАК, -а, *м.* Ціскі *Зацісні ў шрубстак ды напільнікам падпілі добра, ато ня ўлезіць.* Немерка Расням.

ШТАЛТ, -а, *м.* [Фігура], стан. *Адзежа на ім падышла, якраз пад шталт.* Гібалы Касцюк.

ШТАЛТНЫЙ, *прым.* Стройны, прыгожы. *Шталтныя кабылка была ў яго, да прыдаў.* Хвёдараўка Краснап. *Ен чылавек шталтный, высокій.* Гібалы Касцюк.

ШТАНДАР, -а, *м.* Падстаўка, укапаная пад вугал будыніны. *Пыд хату ўкыпалі дубовыя штандары.* Машавая Бялынкав. *Добрыя будуць штандары пыд хату з етыга дуба.* Пірагова Мсцісл.

ШТАНЫ, -оў, *мн. л.* [Штаны], майткі. *Хлопцу сшылі новыя штаны.* Машавая Бялынкав. *Запэцкаў штаны ў гразь.* Чыгрынаўка Расням. *Аб цьвік парваў я сваё штаны.* Тур'я Чэрык. *Сьцінуў штаны і зыстаўсь у адных споднікаx.* Горкі Краснап.

ШТАПОК, -пка, *м.* Глыбокая вузкая шклянка (стакан), у дне вузейшая, як зверху. *Дай мне водкі штапок, дык я табе ўраз зьдзелыю.* Маластоўка Краснап.

ШТО, *займ.* Што. *Што гылыва, то розум.* Гібалы Касцюк. *Што ў тваім гымане ёсьць?* Горкі Краснап.

ШТО, *часц.* Вось. *Што сёлета суніц у лесе, толькі яшчэ зялёныя! Што люблю я, калі ў каго серьгі ў вушах. Абізацілна сабе куплю.* Пірагова Мсцісл.

ШТО, *злучн.* Што. *Ад чаго тут такоя тухлё, што аж нос нáбык верніць.* Бяседавічы Хоцім.

ШТОБ, *злучн.* Каб. *У мяне німа заблыці, штоб нашыць сарочку.* Белы Камень Бялынкав. *Штоб тваей душэ і ўзныку ні было!* Касары Чэрык. *Нада палку ны мятлу абчысаць, штоб ў руку ня муліла.* Сапрынавічы Мсцісл.

ШТОДЗЁННА, *прысл.* Штодзённа. *Ен цяпер штодзённа ходзіць лес пілнаваць.* Сохана Мсцісл.

ШТОДНЮ, *прысл.* Штодня. *Крупені з салым ныварыць штодню, еш, хоць цябе верне!* Парадзіна Мсцісл.

ШТОМЕСЯЦА, *прысл.* Штомесяца, кожны месяц. *Я пасылаю табе грошы штомесяца па дваццыць рублёў, няўжо табе не хапаець?* Хоцімск.

ШТОНІКІ, -аў, *мн. л.* Памянш. ад штаны. *Пашыла я свайму Хвёдару штонікі.* Машавая Бялынкав.

ШТОНЯДЗЕЛЬНА, *прысл.* Штотыдня [кожны тыдзень]. *Хвареюуўсё, штонядзельна хаджу к дохтырю, а тае помычы німа.* Горкі Краснап.

ШТОНОЧ, *прысл.* Штоночы, кожную ноч. *Штоноч ваўкі лі дзяреўні выюць — атруты нада на іх.* Хвёдараўка Краснап.

ШТО-ЯКОЯ, *займ.* Што-небудзь. *Ты, кума, яшчэ загыдзя ні плач, кылі б зь ім што-якоя случылыся, дык ба нашы ныпісалі.* Арцёмаўка Міласл.

ШТРАП, -а, *м.* Штраф. *Нашы коні былі ў шкодзе, і пылявый сторaж запісаў штрап.* Гарбавічы Касцюк.

ШТРАПУВАЦЬ, *дзеясл.* Штрафаваць. *Зыкызаў сяньні ў падводы, дык ні адзін ня едзіць; штрапуваць буду, калі не паедуць.* Забелышана Хоцім.

ШТУКА, -і, *ж.* Штука. *У мяне ўсяго й статку што конь ды пяць штук авец, а болі нічога німа.* Слабада Крыч.

ШТУКАР, -а, *м.* Штукар, майстар на розныя штукі. *Сядзеў Міхась, дык сваімі штукымі нысьмяшыў усіх, ну й штукар!* Ракаўшчына Расням.

ШТУ́КІ, штук, *мн. л.* Штукі [конікі, выбрыкі]. *Ну й Хвядос! Адпаліваіць такія штукі, як ныстыяшчы хвокусьнік.* Добрае Мсцісл. *Ні выжымайся ты, бачылі ўжо твае штукі.* Хвёдараўка Краснап. *Нашто вы яго пусьцілі туды? Ён натворыць такіх штук, што ні рад будзіш.* Зарубец Крыч.

ШТУРМАНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Штурхануцца, выцяцца. *Штурмануўся вось аб дзьверы, дык чуць руку пыдняў, локыць пабіў.* Маластоўка Краснап.

ШТУ́ЧНА, *прысл.* [Паштучна], па адной штуцы. *Я купляў яблыкі штучна, па пяць капеек за яблыка.* Канічы Касцюк.

ШТЫЛЁК, -лька, *м.* Страла. *Як пусьціў я свой штылёк, дык ён убіўся ў стрэху.* Шарэйкі Касцюк.

ШТЫЛЬ, -ю, *м.* Востры дубовы кол, пры дапамозе якога вяжуць плыты. *Бяз штылю ні зьвяжыш бярвеньня ў плот.* Хвёдараўка Краснап.

ШТЫНДА́РА, -ы, *ж.* Падстаўка, укапаная пад вуглом будыніны. *Хату пыставілі на штындарах.* Хвёдараўка Краснап. *Трэба йшчэ прывезьць штындары.* Тур'я Чэрык.

ШТЫХ, -а, *м.* Штык. *Сылдату ў пяхоці даюць вінтоўку і штых.* Арцёмаўка Міласл.

ШУ́БА, -ы, *ж.* Кажух, пакрыты сукном. *Пан у шубі на лісах.* Дарагая Крыч. *Кравец пашыў шубу.* Бель Мсцісл.

ШУБА́НЬНІК, -а, *м.* Той, хто ўмее далёка кідаць, шыбаць. *Шубаньнік сь цябе харошый, лоўка шубаіш.* Хвёдараўка Краснап.

ШУБА́ЦЬ, *дзеясл.* [Шыбаць], кідаць. *Ныбралі етыя бысякі каменьня і дывай шубаць у сыбаку.* Зарубец Крыч. *Ён далёка шубаець камнімі.* Хвёдараўка Краснап.

ШУБЕ́НЬНЯ, -я, *н. зборн.* Палкі для кідання. *Ні мыхай кыла хаты шубеньнім, у вакно пупадзеш.* Слаўнае Мсцісл.

ШУ́БКА, -і, *ж.* Памянш. ад шуба. *Ляксей пашыў сабе шубку.* Зялёны луг Мсцісл. *Уся мыя шубка намокла пыд дажджом.* Пірагова Мсцісл.

ШУБНУ́ЦЬ, *дзеясл.* [Шыбнуць], кінуць. *Як шубнуў у яго камнім.* Беразякі Краснап.

ШУБУНЯ́ЦЬ, *дзеясл.* Невыразна гаварыць. *Што ты там шубуняіш? Ані радзімца ні рызьбяру.* Горкі Краснап.

ШУВА́ЙКА, -і, *ж.* Швайка, спіца, якая ўжываецца пры пляценні лапцей. *Пыдай мне шувайку, я буду плесьць лапці. Пылажы шувайку і сугакі ў скрынку.* Бяседавічы Хоцім.

ШУВЕ́ЙНІК, -а, *м.* Вар'ят. *Шувейнік якей-та, буроя што пупала.* Хвёдараўка Краснап.

ШУГАВЕ́ЙНЫСЬЦЬ, -і, *ж.* Легкамыснасць. *Во ўжу шугавейнысьць у гылаве— адно кідаіць, за другое бярецца, і ні таго ні етыга ня зьдзелыіць.* Слаўнае Мсцісл.

ШУГА́Й, -я, *м.* Світка з даматканага сукна. *У Міхася быў добры шугай, ды нехта ўкраў у яго, во і ходзіць цяпер у пінжаку.* Глінь Касцюк.

ШУ́ЙСТРІСЬЦЬ, -і, *ж.* Жвавасць, спрытнасць. *У хлыпца шуйстрісьць ніпамерныя — на ім аж скура гаворіць.* Хвёдараўка Краснап.

ШУ́ЙСТРЫЙ, *прым.* [Шустры], жвавы. *Такей шуйстрый хлопчык: тут ёсьць, тут німа! Такей шуйстрэй, ладный хлопчык — нікогінькі ні баяўсь.* Парадзіна Мсцісл.

ШУ́ІЦЬ, -і, *ж.* 1. Адонне. *З засіка нічога ўжо ня выбірыш, адна шуіць ацталыся.* Маластоўка Краснап. *Сена з трісьцена ўжу пріналі, дык там шуіць тую, падонкі з хварыстым нада ў навоз утыптаць.* Арцёмаўка Міласл. 2. Малыя, жэўжыкі. *Малыя, шуіць усякыя, і тыя дражнюцца.* Палуж Краснап.

ШУКА́ЦІ, шука́ць, *дзеясл.* Шукаць. *Трэба ў жыцьці прыдобы шукаці.* Б. Хутары Краснап. *Трэба сяньні ііціць шукаць грошы.* Канічы Касцюк. *Брат пашоў шукаць коні.* Кісялёва Буда Калінінчына. *Шукай ні шукай, усё роўна ні нойдзеш.* Арцёмаўка Міласл.

ШУ́ЛА, -ы, *ж.* Шула. *Сьцены ў пуні пахіліліся, мабыць, шула згніла.* Пухнава Раснян. *Шулы пыставілі, зараз нада сьцены закідаць.* Крычаў. *Нада ўкыпаць дубовыя шулы, каб даўжэй выстыілі.* Слаўнае Мсцісл.

ШУЛА́К, -а, *м.* Шула. *Зь етыга дубка выйдзець ладный шулак.* Ушакі Чэрык.

ШУЛАЧО́К, -чка, *м.* Памянш. ад шулак. *Атрэзыў шулачок, а шула ня вышла.* Хвёдараўка Краснап.

ШУЛУДЗІ́ВЫЙ, *прым.* Шалудзівы. *У Сьціпана шалудзівыя гылыва.* Гібалы Касцюк.

ШУЛУПА́ХА, -і, *ж.* Шалупайка, шкарупіна, лушпайка. *Нашто ты накідаў тут шулупахыў?* Палуж Краснап. *Усі печыныя кардохлі паелі, толькі шулупаха зысталысь.* Арцёмаўка Міласл.

ШУЛУПА́ШКА, -і, *ж.* Памянш. ад шулупаха. *Сыбяры шулупашкі ад кардохыль і ўкінь сьвіньнім у карыта.* Касперка Міласл.

ШУМЕ́ЛЬ, -я, *м.* Пустазелле. *У жыці шумель расьцець.* Брылёўка Краснап.

ШУМЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Шумець. *Лес шуміць, адліга будзець.* Касары Чэрык. *Увосінь пы балотых шуміць сыка.* Слаўнае Мсцісл.

ШУ́МІЦЬ, -і, *ж.* Адонне [аціра]. *Усё сена стравілі за зіму, адна шуміць зыстылася.* Вербеж Чэрык.

ШУМУХМА́ЦЬЦЯ, -я, *н.* Лахманы, рыззё. *Назьбіралыся етыга шумухмацьця цэлый кут, хуць бы тряпышнік хутчэй прыехыў.* Маластоўка Краснап.

ШУ́ПІК, -а, *м.* Пабітае яйцо. *У мяне было трі целыя яйцы і адзін шупік.* Слаўнае Мсцісл.

ШУ́ПІЦЬ, *дзеясл.* Цяміць, разумець. *Іна, ні глядзі, што ма́лыя, а ўжу шупіць, усё ёй нада знаць, усё пынясь ёй нада.* Арцёмаўка Міласл. *Ён у етым нічога ня шупіць. Малэй, ды шупя.* Хвёдараўка Краснап.

ШУПУВА́Л, -а, *м.* Майстар, які робіць валёнкі. *Нада аддаць шупувалу зваліць валёнкі.* Слаўнае Мсцісл.

ШУПШЫ́НА, -ы, *ж.* Шыпшына. *Тут*

*нейдзе шупшына расьцець, пах чуцін.* Тур'я Чэрык.

ШУПШЫ́НЬНІК, -а, *м.* Шыпшыннік, куст шыпшыны. *Улез у шупшыньнік, дык пыкалоў сабе чыста ногі.* Хвёдараўка Краснап.

ШУРГАНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Шарганущца. *Бег, шурганууўсь аб дзерыва плячом — рукаў выдраў.* Парадзіна Мсцісл.

ШУ́РКА, -і, *ж.* Шурка, мера дроў у чвэрць сажня. *Мы вывезьлі з лесу тры шуркі дроў.* Лапаціна Мсцісл. *Зьбірай ету шурку ды вязі.* Машавая Бялынкав.

ШУРМА́НКА, -і, *ж.* [Шарманка], катрынка. *Пубяжым на тую вуліцу, там скымарохі з шурманкый ходзюць і з маліпькый бізьянкый.* Касцюковічы.

ШУРНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Шурнуць, кінуць. *Як шурнуў ён камням у лужу — аббрыскаў мяне ўсю.* Пірагова Мсцісл.

ШУРО́КІЙ, *прым.* Шырокі. *Баба жжала тую шурокую пыстаць і пычала другую.* Арцёмаўка Міласл. *Сьвет шурокі, а дзецца нейдзе.* Немерка Расиян. *Шурокыя дужа лыста ў вераі.* Антонаўка Краснап.

ШУ́РПАТЫЙ, *прым.* Шурпаты. *Мост дужа шурпатый, дык скыкаць нільзя, бо нагу можна зыскабіць.* Галічы Міласл.

ШУ́РПЫЧКА, -і, *ж.* Дзіця з кучаравымі валасамі. *Вось шурпычка гэты хлопіц; і нашто яму такія выласы: лепш бы дзяўчыні такея.* Ушакі Чэрык.

ШУ́РЫЧКІ, -чак, *мн. л. бат.* Назва расліны, каткі; авечачкі. *Пыд сасонкый на полі растуць шурычкі. Іх завуць яшчэ авечычкымі.* Хвёдараўка Краснап.

ШУ́СНУЦЬ, *дзеясл.* 1. Шуснуць, абсунуцца, упасці ўніз. *Ішоў ля мосту, нейк аступіўся і шуснуў у канаву.* Галічы Міласл. 2. Хутка, не разглядаючы, памяняцца на рэчы. *Дывай шусьнім на косы.* Горкі Краснап.

ШУ́СТРА, *прысл.* Жвава. *Шустра зьбегаў у лаўку і прінёс красіну.* Буглаі Краснап.

ШУ́СТРЫЙ, *прым.* [Шустры], жвавы. *Мой конік шустры.* Кокатава Мсцісл. *О, іна шустра: дзе яе ня просюць, і там пысьпіваіць; вокым ня ўгледзіш, як іна носіцца зь места на места.* Арцёмаўка Міласл.

ШУФЛЯ́ДА, -ы, *ж.* Шуфляда, скрынка ў стале. *Пылажы ета ў стол, у шуфляду.* Журбін Краснап. *Вось ета шуфляда ў камодзі мыя, і ты ў яе нічога ні кладзі.* Ушакі Чэрык.

ШУХАВЕ́Й, -я, *м.* Пусты чалавек, які не мае сталых поглядаў. *Гэтый чылавек шухавей, у яго ж вецір у гылаве: сёньня ён так, а заўтрі іначы.* Шумячы.

ШУХЛЯ́ДА, -ы, *м.* Шуфляда. *Зьбяры вось гэтыя сшыткі і паперу і палож у шухляду.* Студзянец Касцюк.

ШУ́ХНУЦЬ, *дзеясл.* Шуснуць. *Як шухнуў у лужу, дык пы калена ўсадзіўся.* Палуж Краснап.

ШУ́ЧУ-ЧУ́! *выкл.* Для закліка авечак. *Шучу-чу ў пуню.* Хвёдараўка Краснап.

ШУ́ШКЫНЬНЯ, -я, *н.* Шушканне, шаптанне. *Іду я сабе, аж чую кыла Максімывай хаты нейкыя шушкыньня: два гыласы напірябой нешта ціха і скора гаворацць, толькі ні рызьбярэш што.* Галічы Міласл.

ШУШКЫЦЬ, *дзеясл.* Шушкаць, шаптаць. *Ён стаў мне нешта шушкыць на вуха, а я ўсё адно нічога ні рызыбрала.* Арцёмаўка Міласл.

ШУШУ́Н, -а, *м.* Верхняя жаночая адзежа з заборамі. *Матка пашыла сабе новый шушун.* Крычаў.

ШУ́Я, -і, *ж.* Адонкі, труха пасля сена. *Сена ўжу ўсё скарьмілі, у стыряне толькі 'дна шуя ацталысь.* Трубільня Краснап.

ШЧАВЕ́ЛЬ, -я, *м. бат.* Шчавель, [шчаўе]. *Увясну, калі німа ўжо ні капусты, ні бурякоў у погрыбі, дзеці ходзюць пы аборках зьбіраць шчавель длі варыва.* Пірагова Мсцісл.

ШЧАВЕ́ЛЬНІК, -а, *м.* Хлапчук, што збірае шчавель. *Зашлі лог тыптаць, шчавельнікі!* Хвёдараўка Краснап.

ШЧАВІЛЬ, -я, *м.* Шчавель, шчаўе. *Снытку можна варыць, як шчавіль, толькі мыладую. Шчавіль сяньні, як воцында, дужа кіслы.* Хвёдараўка Краснап. *Ён ня можыць атлічыць шчаўля ат блёкыту.* Арцёмаўка Міласл.

ШЧАДЗІ́ЦЬ, *дзеясл.* Шчадзіць [ашчаджаць]. *Ён нічога ні шчадзіць.* Гібалы Касцюк. *Зьбіраў і шчадзіў кождае зярэнца, а січас зысталося чорту лысаму.* Сохана Мсцісл.

ШЧАДУ́ШНЫЙ, *прым.* Мізэрны, слабасільны. *Мельнік быў шчадушны, нізенькі старычок.* Сохана Мсцісл.

ШЧАКЕ́Т, -а, *м.* Агароджа з дошчак, якія прыбіты да жэрдак стаймя. *Шулы падгнілі, і шчакет пуваліўся.* Бяседавічы Хоцім. *Прападае твой шчакет, нанова трэба гарадзіць.* Таўстыкі Стрэш.

ШЧАМЕ́ЛЬ, -я, *м.* Чмель. *Шчамель дзелыіць гняздо ў зямлі пад мохым, толькі ў сухом месьці. І мёд у шчымялей буваіць у чарычкых.* Арцёмаўка Міласл. *Мяне ўкусіў шчамель.* Гібалы Касцюк.

ШЧАНЁНЫК, -нка, *м.* Шчаня. *Сучка і тая любіць свайго шчанёнка, а штоб матка ні любіла свайго дзіцёнка.* Арцёмаўка Міласл. *Ета будзіць гожый шчанёнык, відзіш, якея вушы.* Бяседавічы Хоцім.

ШЧАНІ́ЦЦА, *дзеясл.* Шчаніцца. *Наша сучка шчанілась, пяць шчанёнкыў прывіла.* Буда Рагатая Міласл.

ШЧАНО́К, -нка, *м.* Шчаня. *Якія ета сыбака? Ён шчанок яшчэ: яму толькі шэсьць месіцыў.* Пархвенава Мсцісл. *Ён так крануў шчынка, што забіў.* Галынец Краснап.

ШЧАПІ́ШЧА, -а, *н.* [Дрывотня], трускоўе, месца, дзе колюць дровы. *Тапор нясі ў хату, нашто кінуў пы шчапішчы.* Хвёдараўка Краснап.

ШЧАРНЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Счарнець, зрабіцца чорным. *Прішчаміў я паліц у дзьвірах, аж шчарнеў увесь.* Ушакі Чэрык.

ШЧАСЬЛІ́ВЫЙ, *прым.* Шчаслівы. *Шчасьлівы чылавек — ніякыга гора ён ні знаіць.* Гібалы Касцюк. *Прысядзьце троху, пысядзіце, штоб была шчасьлівыя дарога.* Юшкі Мсцісл. *Во, калі б я меў кучу гро-*

*шы, то быў бы шчасьліў.* Лешчынка Мсцісл.

ШЧАСЬЦІЦЬ, *дзеясл.* Шчасціць. [шанцаваць]. *Сяньні яму шчасьціць у карты: ужо кыля пяцёркі выйграў.* Добрае Мсцісл.

ШЧАСЬЦЯ, -я, *н.* Шчасце. *Яму плоцяць з вырабытку, сколькі зработыя, то й яго щчасьця.* Хвёдараўка Краснап. *Я пымыладзеў, як пачуў, што ў цябе такоя шчасьця.* Асмолавічы Мсцісл. *Знийшла спарыш у жыці: шчасьця будзя нейкыя.* Палуж Краснап.

ШЧАЎЛЮК, -а, *м. бат.* Конскі шчавель. *Шчаўлюк маець лісьцікі, як шчавель, толькі вузей, у яду не ўжываецца.* Пірагова Мсцісл. *Пы лагу парос шчаўлюк, ідзі ды яго павыжні сярпом, бо ён заглушыць усю астальную.* Слаўнае Мсцісл.

ШЧАЎПІЦЦА, *дзеясл.* Шчапіцца [ухапіцца адзін за аднаго ў бойцы]. *От зыядлыя, шчаўпілісь — ні рісьцягнуць, адзін аднаму насы пыабдзірялі.* Палуж Краснап.

ШЧАЎЧОК, -чка, *м.* Пстрычка. *Дзед спаў, дык ён яму шчаўчком у нос.* Арцёмаўка Мілаcл.

ШЧАЎЯ, -ю, *н.* Шчавель [шчаўе]. *Шчаўя на лузе расьцець.* Гібалы Касцюк. *Пайдзі, доня, нырвяры шчаўю, зварім варіва.* Трубільня Краснап.

ШЧАЦІНА, -ы, *ж.* [Шчаціннe], свіная шэрсць. *Етыга кыбына нільзя так паліць, нада паскусьць яго, у яго шчаціна харошыя, ды і дорыга іна сёліта.* Арцёмаўка Міласл. *Шчаціна ў свіньні ныдубырылась.* Палуж Краснап.

ШЧОГІЛЬНА, *прысл.* Зухавата. *Шахцёр любіць шчогільна хадзіць.* Палуж Краснап.

ШЧОРК, -а, *м.* Селекцыя, выбар чыстага насення. *Жыта любя шчорк, а грошы — шчот.* Мануйлы Краснап.

ШЧОТКА, -а, *ж.* 1. Шчотка. *Пыдай мне шчотку, нада гылаву рысчысаць, ато етый грібянец дужа дзярецца.* Бяседавічы Хоцім. 2. Шэрсць у каня над капытамі. *Конь прасек нагу кыла шчоткі.* Хвёдараўка Краснап.

ШЧУБОЎКНУЦЦА, *дзеясл.* Плюхнуць у ваду [боўтнуцца]. *Шчупак шчубоўкнуўся, толькі яго й бачылі.* Хвёдараўка Краснап.

ШЧУБУРЛЫХ, *выкл.* Боўць, бух, плюх. *Рызыгнаўся зь берыга ды шчубурлых у ваду!* Цівецкая Мсцісл.

ШЧУПАК, -а, *м.* Шчупак. *Глядзі, якей шчупак плыве, забі яго васьцямі.* Вародзькава Мсцісл. *У реццы дзеці злавілі шчупыка, хунтыў пяць будзіць.* Слаўнае Мсцісл.

ШЧУПЕЛЫК, -лка, *м.* Малы шчупак, шчупачок. *Пыймаў шчупёлка на вуду.* Хвёдараўка Краснап.

ШЧЫБЕР, -а, *м.* Юшка [ў коміне]. *Атчыні шчыбер, ніхай троху сьцягніць чад.* Таўстыкі Стрэшын.

ШЧЫКА, -і, *ж.* Шчака. *Яму було стыдна, шчыка аж гарэла ат сорыму.* Буда Рагатая Міласл.

ШЧЫКАТУРА, -ы, *ж.* Тынк. *Зіму хата так прістаіць, а віеной будзім шчыкатуру нывадзіць.* Маластоўка Краснап.

ШЧЫКАТУРКА, -і, *ж.* Тынк. *Шчыкатурка са сьцен уся абвалілыся.* Мсціслаў.

ШЧЫКІЛЯЦЬ, *дзеясл.* Зухаваць. *У новых ботых шчыкіляіць.* Палуж Краснап.

ШЧЫКЫЛЫТКА, -і, *ж.* Костачка ў назе, каленцы ў пальцах рукі. *Зьбіў я сабе ўсі шчыкылаткі, зы быраной ходзючы.* Хвёдараўка Краснап.

ШЧЫКЫТАЦЬ, *дзеясл.* Казытаць. *Кажуць, што нібы русалкі шчакочуць людзей рукамі, могуць насьмерць зашчыкытаць.* Слаўнае Мсцісл.

ШЧЫЛІНА, -ы, *ж.* Шчыліна. *Іна стыяла за пунію і глядзела ў шчылыну, што мы дзелыім у пуні.* Арцёмаўка Міласл.

ШЧЫЛЬНА, *прысл.* Шчыльна, шчытна. *Зачыняйце шчыльна хвортку.* Крычаў. *Прыпусьціў бярно так шчыльна, што й голкі ні падбадзеш.* Хвёдараўка Краснап.

ШЧЫМЕЦЬ, *дзеясл.* Шчымець. *Трэба піць сярдэшнік, калі серца шчымля.* Хвёдараўка Краснап.

ШЧЫМЯЛЕЎ, *прым.* Чмялёў, чмяліны. *На лугу мы нашлі шчымялёва гняздо.* Гібалы Касцюк. *Шчымялёў мёд дужа смашны.* Тур'я Чэрык. *Я, касіўшы, нашоў шчымялёў.* Кокатава Мсцісл.

ШЧЫМЯЛІНА, -ы, *ж. бат.* Шчамяліца, медуніца. *Шчымяліна ў лесі расьцець, на від іна, як снытка.* Хвёдараўка Краснап.

ШЧЫПАЦЬ, *дзеясл.* Шчапаць. *Шчыпаў лучыну і забіў сабе скабку ў паліц.* Сохана Мсцісл.

ШЧЫПАЦЬ, *дзеясл.* Шчыпаць, рваць. *Пашлі хлопцы ў лес шчыпаць арэхі.* Сохана Мсцісл.

ШЧЫПЯНУЦЦА, *дзеясл.* Схапіцца. *Шчыпянуўся, а грошый ужо німа.* Горкі Краснап. *Я шчыпянулася, што ў мяне ўкралі пылатно.* Васілёўка Хоцім.

ШЧЫРЭЦ, -рца, *м.* Сыпучы пясок. *Адзін шчырэц на етый дарозі.* Хвёдараўка Краснап.

ШЧЫТАЦЦА, *дзеясл.* Лічыцца. *Зь еткыю дрыбязнысьцю ня стоіла б шчытацца.* Слаўнае Мсцісл.

ШЧЫТНА, *прысл.* Шчытна, шчыльна. *Зачыні дзьверы шчытна, ато сьнегу надзьме.* Парадзіна Мсцісл. *Кабат шчытна абцягвае грудзі.* Пірагова Мсцісл.

ШЧЫТНЫЙ, *прым.* Шчытны, шчыльны. *Сенцы нашы шчытныя, зімою капуста ні замірзаіць.* Буда Рагатая Міласл.

ШЧЫЎКАЦЦА, *дзеясл.* Даваць адзін аднаму пстрычкі. *Дывай будзім шчыўкацца, толькі ў нос ні нада, а ў лоб.* Горкі Краснап.

ШЧЫХАНЬНЯ, -я, *н.* Счаханне, [чэзнанне]. *Ат шчыханьня біз яды чуць ногі валочыць.* Сохана Мсцісл.

ШЧЫХАЦЬ, *дзеясл.* Чахнуць, чэзнуць. *Прыходзіцца сям'і шчыхаць ня еўшы.* Сохана Мсцісл.

ШЧЭБІЦЬ, -і, *ж.* 1. Самая вяршына дрэва, макаўка. *Узыбраўся ны самую шчэбіць ёлкі.* Хвёдараўка Краснап. 2. Верхні шчыт страхі. *На пуні шчэбіць веціръ панёс, нада задзелыць і пылажыць жэрдку, штоб крэпчэй было.* Боханы Росл.

ШЧЭЛКА, -і, *ж.* Шчыліна. *Пыглядзі ў шчэлку, можа што ўвідзіш.* Бяседавічы Хо-

цім. *Між масьніцымі шчэлка, дык дуе ў ногі адтуль, спаднізу.* Парадзіна Мсцісл.

ШЧЭНТ, -у, *м.* Шчэнт, канец. *Усё сваё хызяйства прыдаў да шчэнту.* Канічы Касцюк. *На шчэнт зьвёўсь бенны хлопец за гэты месіц.* Ушакі Чэрык.

ШЧЭ́ПКА, -і, *ж.* Шчэпка, трэска. *Шчэпка і тая ў хыдзяйстві згадзіцца.* Гарадок Распян. *Пысядзі-ка на цурэ, дык станіш, як шчэпка.* Буліна Мсцісл.

ШЧЭ́РБА, -ы, *ж.* Шчарбіна, выбіты чарапок у гаршку. *Нада задзелыць шчэрбу ў цугуне.* Хвёдараўка Краснап. *У новым гаршку ёсьць шчэрба, і ён цякець.* Сохана Мсцісл.

ШЫМАНЕ́ЦЬ, *дзеясл.* Вар'яцець. *Шыманеіш ты, дзевычка, нашто ты пырвала сарочку.* Хвёдараўка Краснап.

ШЫ́БА, -ы, *ж.* Шыба. *У вакне выбіта шыба.* Бель Мсцісл. *Як стукнуў у раму, так шыбы й павыліталі.* Хоцімск.

ШЫБАЎКНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Боўтнуць, шуснуць, упасці ў ваду. *Панесла мыць бяльлё на паныўку ды як шубаўкнула ў ваду, дык па рукі аммачылыся.* Куркаўшчына Мсцісл.

ШЫБА́ЦЬ, *дзеясл.* Шыбаць, кідаць. *Убачыў віраб'ёў і дывай у іх каменьнямі шыбаць.* Старае Сяло Мсцісл.

ШЫБА́ШКА, -і, *ж.* Кавалак палена, абрубак. *Вазьмі вось гэту шыбашку ды адгані сьвіней ат карыта.* Тур'я Чэрык. *Нам шыбашкі ні патрэбны.* Маластоўка Краснап.

ШЫБЕ́НЬ, -я, *м.* Кароткая палка. *Хваціў шыбень на вуліцы, ды як кінець у сыбаку, добря што ні пупаў, ато б акалечыў.* Слаўнае Мсцісл.

ШЫ́БІЛЬНІЦА, -ы, *ж.* Шыбеніца. *Ой, хлопча, плачыць пы табе шыбільніца.* Зяцічы Мсцісл. *Яго б на шыбільніцу за ета.* Хвёдараўка Краснап.

ШЫБІ́НА, -ы, *ж.* Кароткая палка. *Хведзька як шахнуў шыбінай у яблынку, дык зразу дзесяць яблык зьбіў.* Кокатава Мсцісл.

ШЫ́БІНІЦА, -ы, *ж.* 1. Шыбеніца. *Што мне на шыбініцу зы яго ісці?* Слаўнае Мсцісл. *Впярёд бацькі на шыбініцу ня кідыйсь.* Бяседавічы Хоцім. 2. Высокае месца, няўстойлівыя падмосткі, рыштаванне. *На еткыю шыбініцу ўзыбраўся. Узьлез ны такую шыбініцу.* Кокатава Мсцісл. *Ныгырадзіў тут шыбініцу ны дарозе; прімі ета паленьня, ато зьнячэўку сам акалечышся.* Слаўнае Мсцісл.

ШЫ́БКА, -і, *ж.* Памянш. ад шыба. *У вакне шыбка разьбілась.* Зялёны Луг Мсцісл. *Дрыбяшчыць шыбка ат ветру.* Хвёдараўка Краснап. *Хлопіц разьбіў у вакне шыбку.* Крычаў.

ШЫ́БКА, -і, *ж.* Памылка. *Тут вышла маленькыя шыбка — ні таго зачытаў, каго нада.* Хоцімск.

ШЫ́БКА, *прысл.* Хутка, шпарка. *Ты не бяжы шыбка, ато пываліськя.* Дзягавічы Крыч. *Больна ты шыбка ўсё дзелаіш, так яно ў цябе і выходзіць.* Добрае Мсцісл. *Етый конь бегаіць шыбка.* Гібалы Касцюк.

ШЫБНУ́ЦЬ, *дзеясл.* [Шыбнуць], кінуць. *Хацеў пупасьць шыбнём у сыбаку, шыбнуў, ды прымахнуўся, ні пупаў.* Слаўнае Мсцісл.

ШЫБУРДЫ́ХНУЦЦА, *дзеясл.* [Бултыхнуць], упасці ў ваду. *Ен як шыбурдыхнецца ў ваду з кладкі, дык пы самую шыю.* Палуж Краснап.

ШЫВАЛІ́ЦЬ, *дзеясл.* [Шавяліць], варушыць. *Ета сена ні нада ні пыдкідаць, ні шываліць, яно суха, і так гресьць можна.* Арцёмаўка Міласл.

ШЫВАЛЬНУ́ЦЬ, *дзеясл.* [Шавяльнуць], варухнуць, крануць. *У мяне паліц так баліць, што шывальнуць ні магу.* Хвёдараўка Краснап.

ШЫВІ́ЛЬДА, -ы, *ж.* Чалавек, што неразборліва, няясна выгаворвае словы. *Ен шывільда нейкыя, ні радзімца ні рызьбярэш, што ён гаворя.* Хвёдараўка Краснап.

ШЫВІЛЯ́ВІЦЬ, *дзеясл.* Шапялявіць, гаварыць неразборліва. *Каб жа гаварыў палюдзку, ато шывілявіць, што ні рызьбярэш.* Хвёдараўка Краснап.

ШЫВІЛЯ́ТЫЙ, *прым.* Шапялявы, чалавек, што не выгаворвае ясна некаторых гукаў. *Ен нейкій шывіляты,— ні скажыць «р», а «л»: замест «рама» кажыць «лама».* Хвёдараўка Краснап.

ШЫВЫРЫТ, -а, *м.* Карак. *Яго карова як сыпанула ў шывырыт, дык і ногі зыдраў.* Куркаўшчына Мсцісл. *Ціха вы, бо я доўга гывырыць з вамі ня буду — за шывырыт ды за дзьверы.* Касары Чэрык.

ШЫВЯЛІ́ЦЦА *дзеясл.* Шавяліцца, варушыцца. *Ад страху ён і шывяліцца ня можыць, ня то што зь места дзьвінуцца. Пысадзілі мяне ў крэсла і скызалі ні шывяліцца.* Арцёмаўка Міласл.

ШЫ́ГЫЛЬНЯ, -я, *н.* Дробнае сучча, хваёвыя шпількі ў лесе. *У шыгыльлі я знайшоў тры бырвікі.* Хвёдараўка Краснап.

ШЫДРАНО́ЎКА, -і, *ж.* Шадраноўка, спадніца, пашытая з шадрону. *Агата пашыла сабе спадніцу-шыдраноўку.* Барысавічы Клім.

ШЫ́НА, -ы, *ж.* Перашыек на лузе, на рацэ. *Трэба пыкасіць траву на шыні, ато стравяць як пусьцяць скот па іржышчы.* Хвёдараўка Краснап.

ШЫКАЎЗНУ́ЦЦА, *дзеясл.* Паслізнуцца. *Шыкаўзнуўся — ды гылавою аб лёд.* Палуж Краснап.

ШЫ́ЛА, -а, *н.* Шыла. *Дыстань з стыла шыла, нада бот зашыць — прабіў у лесі на сук.* Кокатава Мсцісл.

ШЫЛАМШЫ́ВЫЙ, *прым.* Гарачы [нястрыманы]. *А ён нейкій зусім шыламшывый.* Куркаўшчына Мсцісл.

ШЫЛАПУ́Т, -а, *м.* Шалапут. *Ну й шылапут хлопіц етый, усіх абкруціў.* Палуж Краснап.

ШЫЛЫХВАСТ, -а, *м.* Хвалько. *Ці было калі, каб еткій шылыхваст праўду скызаў.* Хвёдараўка Краснап.

ШЫЛЬМАЎСТВО, -а, *н.* Абман, ашуканства. *Ніпраўда ета—шыльмаўство 'дно: нідзе ён ні быў і нічога ні бачыў.* Маластоўка Краснап.

ШЫЛЯ́ГА, -і, *м.* Шаляга, нікуды ня-

вартая каняка. *А йдзе ета мой шыляга?* Хвёдараўка Краснап.

ШЫМАЦЕЦЬ, *дзеясл.* Шамацець, шалясцець. *Нехта там шымаціць.* Палуж Краснап. *Дос табе шымацець бумагыю, дай паслухыць, што там кажуць.* Арцёмаўка Міласл.

ШЫМАЦЬЦЕ, -я, *н.* [Шамаценне], шэлест, шолах. *Ні магу спаць на сені, ні даець ета яго шымацьцё.* Слаўнае Мсціcл.

ШЫМАШЫНЬНЯ, -я, *н.* Амецце, дробныя каласкі пасля малацьбы. *Сыбраў шымашыньня конім, ніхай пірякусюць.* Хвёдараўка Краснап.

ШЫНА, -ы, *ж.* Шына, жалезная палоска, якою абкоўваюцца колы. *На етым катку дужа тонкая шына.* Ташна Клім. *Шына з катка звалілась!* Бязводзічы Мсцісл. *Я сяньні ныгнаў на два каткі шыны.* Бяседавічы Хоцім.

ШЫНК, -а, *м.* Шынок. *Раньшы тута быў шынк.* Хвёдараўка Краснап.

ШЫНКУВАЦЬ, *дзеясл.* Шынкаваць, гандляваць алкагольнымі напіткамі. *Матруна шынкуіць сымагонкый ныправа й налева.* Слаўнае Мсцісл.

ШЫНОК, -ка, *м.* Шынок, карчма. *Зайдзем у шынок, купім пыўкварты.* Хвёдараўка Краснап.

ШЫП, -а, *м.* Гвозд драўляны. *Вазьмі мост ны шыпы, штоб ні кырбаціла.* Хвёдараўка Краснап.

ШЫПАРНУЦЬ, *дзеясл.* Шапнуць, сказаць ціха па сакрэту. *Шыпарні-ка ты яму пра ета.* Кокатава Мсцісл.

ШЫПЕЦЬ, *дзеясл.* Шыпець, скварціся. *Ны скыўрадзе шыпела кілбыса і румяныя скваркі сала.* Слаўнае Мсцісл.

ШЫПІЛЯВІЦЬ, *дзеясл.* Шапялявіць. *Як пычаў шыпілявіць, дык нічога ні рызыбраў.* Палуж Краснап.

ШЫПКА, -і, *ж.* Шыбка. *Градым разбіла шыпку.* Людагошч Мсцісл.

ШЫПТАЦЬ, *дзеясл.* Шаптаць, нагаворваць. *Ат падзіву шыптала.* Хвёдараўка Краснап.

ШЫПУШКА, -і, *ж.* 1. Пупышка. *Ны каліне шыпушкі бальшэя — скора і цьвісьці будзе.* Парадзіна Мсцісл. 2. Калючка. *Хырашо маліну брацъ, ды шыпушкі колюцца.* Тур'я Чэрык.

ШЫПШЫНА, -ы, *ж.* Шыпшына, дзікая ружа. *У нас пыд вакном расьцець вялізный куст шыпшыны, дык во пах, калі расьцьвіцець.* Юркаўка Крыч.

ШЫРІНГА, -і, *ж.* Шарэнга, шэраг. *Ты глянь на етых дзяцей — пысталі ў шырінгу, як сылдаты.* Канахоўка Клім.

ШЫРМАГА, -і, *ж.* Сярмяга, верхняя вопратка з даматканага сукна. *Мыя шырмага пырвалася.* Мацутаўка Раснян.

ШЫРМАНКА, і-, *ж.* Шарманка [катрынка]. *К нам пріїжжаў адзін з шырманкаю, дык так хырашо йграіць. Дзержыць сундучок такей і круціць сабе ручку, і сам пыдпіваіць.* Арцёмаўка Міласл.

ШЫРОКІЙ, *прым.* Шырокі. *Ток у гумне шырокі.* Пухнава Раснян. *Мыя пыстаць шырокая.* Усцінавічы Краснап.

ШЫРЫВАЦЬ, *дзеясл.* Шараваць, мыць, чысціць. *Шаруй мне плечы. Нада мне йшчэ сымывар шырываць.* Маластоўка Краснап.

ШЫРЫНКА, -і, *ж.* Доўгі кавалак палатна, вышыты на канцах, які ўжываецца замест хусткі. *Вышыла сабе шырынку.* Канахоўка Клім. *Матка не зьвязваець ны гылаву хусткі, а шырынку.* Гібалы Касцюк.

ШЫСТАК, -а, *м.* Шастак, тры капейкі. *Меў адзін шыстак і таго згубіў, цяпер і ны пачку тыбакі німа.* Тур'я Чэрык.

ШЫСТАКА, -і, *ж.* Шасцёрка, назва карты. *Хадзі шыстаку. Шыстаку бі сёмкай.* Хвёдараўка Краснап.

ШЫТАЙЛА, -а, *м.* Валацуга, чалавек, што не сядзіць на месцы, а швэндаецца. *Шытайла етый нідзе месца ні знойдзець, атусюль яго гыняюць, вось ужу с трецігa месца выліціў.* Шумячы.

ШЫТАН, -а, *м.* Шайтан, злы дух, чорт. *Шытан яго носіць тут — прышоў, разбурыў і пашоў.* Нізькі Касцюк.

ШЫТАНСКІЙ, *прым.* Шайтанскі [чартоўскі]. *Нейкыя шытанскыя сіла прычапілыся.* Брылёўка Краснап.

ШЫХЫЙНЯ, -і, *ж.* Басяк, басота. *Вуонь шыхыйня йдзе!* Хвёдараўка Краснап.

ШЫХЫЦЬ, *дзеясл.* Бегаць, шмыгаць. *Нешта тут шыхыя, бач, ікая сьцежычка пратоптыныя.* Хвёдараўка Краснап.

ШЫЦЦА, *дзеясл.* Шыцца. *Жаночыя сарочка шыецца з двух пылавін: чэхліка і падточкі.* Машавая Мсцісл.

ШЫЦЬ, *дзеясл.* Шыць. *Етый сапожніктыкі ладна магець шыць, яму можна і харошыя сыпагі зыкызаць.* Арцёмаўка Міласл. *Ні дажджэсься ты, ён дужа марудна шыіць.* Слаўнае Мсцісл.

ШЫШКА, -і, *ж.* Шышка, шышак. *Мой сыбака ўвесь шышкамі аброс: недзе ў дзяды ўбіўся.* Барысавічы Клім.

ШЫЯ, шыі, *ж.* Шыя. *У цябе шыя надта брудныя, хоць ба ты памыў яе.* Касары Чэрык. *Закруці ты шалік каля шыі, цяплей будзець.* Зяціна Мсцісл.

ШЭЛЬМА, -ы, *м.* і *ж.* Шэльма. *Шэльма гэты, пьянюга, яму толькі людзей забіваць.* Радзіонаўка Мсцісл. *Шэльма ты, дзеўка, зы сабою ні глядзіш.* Буглаі Краснап. *Кручыный шэльма — каго хочыш абдуріць!* Горкі Краснап.

ШЭПТЫ, -аў, *мн. л.* Шэпты, шаптанне. *Шэпты хату зводзяць.* Васілёўка Хоцім. *Што йта за шэпты? Гыварыце, штоб усім было чутна, а калі хочыця шыптаць, дык выходзьце з хаты.* Іванаўка Хоцім.

ШЭРІНЬ, -я, *м.* Шэрань, іней на траве. *Сяньні холыдна была ўночы — шэрінь траву пакріла.* Казельская Буда Краснап.

ШЭРСЦЬ, -і, *ж.* Шэрсць. *Спадніца з чорнай шэрсці.* Пацкава Мсцісл.

ШЭРСЬЦЯНЫЙ, *прым.* Шарсцяны. *Шэрсьціная юпка; адзіяла шэрсьціноя.* Лапаціна Мсцісл.

ШЭРШАТКА, -і, *ж.* Шаршатка, вялікая іголка. *А йдзе йта наша шэршатка, нада мяшок зашыць, мышы дзірку праелі.* Кісялёва Буда Краснап.

ШЭ́РШЫНЬ, -я, *м.* Шэршань. *Шэршні дзелыюць гняздо круглыя і прычэплівыюць яго ідзе-нібудзь у пуні пад крышаю.* Арцёмаўка Міласл.

ШЭ́РЫЙ, *прым.* Шэры. *Сыбака шэры, на вуйка пахож.* Забельшана Хоцім. *Шэрыя сьвітка.* Янаўка Мсціcл.

ШЭ́СЬЦІРА, -ых, *ліч.* Шасцёра, шэсць. *У Міхалка було шэсьціра сыноў.* Палуж Краснап.

ШЭСЬЦЬ, -і, *ліч.* Шэсць. *Ён нашоў шэсць пыдыбабкыў і два быравікі.* Вародзькава Крыч. *Прыхадзі роўна ў шэсьць, біз спазьненьня.* Старае Сяло Мсціcл.

# Ы

ЫГЫ́, *часц.* Так, але, ага (пацвярджальна). *Ці быў ты сяньні ў лесе? Ыгы, быў!* Нізькі Касцюк.

ЫГЫ́КАЦЬ, *дзеясл.* Казаць «ыгы», адказваць аднаскладова. *Што ты ўсё ыгыкаеш, ня можыш як сьлед скызаць, а ўсё ыгы ды ыгы.* Вербеж Чэрык.

ЫГЫ́КЫЛА, -а, *н.* Неразгаворлівы чалавек. *Вось ыгыкыла прыклятыя, ад яго і слова другога ні пачуеш акрымя ыгы.* Касперка Міласл.

ЫМБАР, -а, *м.* Клець, свіран. *Поўны ымбар усякыга зірна.* Канахоўка Клім.

# Э

Э, *выкл.* Э, эге. *Э, брат, тут ні дзін каток, а чатыры, цэлы стан патрэбін.* Парадзіна Мсціcл.

ЭГЕ́, *часц.* Так, але [ага́]. *Ці ў цябе тыбака ё? Эге, ё!* Кокатава Мсціcл. *Ці пайдзеш ты сёньня ў горыд? Эге, пайду!* Барысавічы Клім. *Эге ж, і я так кажу.* Маркаўка Хоцім.

ЭГЕ́, *выкл.* Эге! *Эге ж, ты ўмееш! А я й ні ведыў, што ты ета могіш зьдзелыць.* Пархвенава Мсціcл.

ЭЙ, *выкл.* Эй. *Эй, грымыдзянін, каток зьдзейся!* Сутокі Мсціcл.

ЭЙШ, *выкл.* Бач [іш]. *Эйш, якей хрант знайшоўсь: штаны ў аблiпычку, пылавінкі так і ляпыюць.* Маластоўка Краснап. *Эйш, якей пыдбародывіч зыгудуваў!* Тур'я Чэрык. *Эйш, пыдгынятый якей знайшоўся, і біс цябе ўправімся. Эйш ты яго!* Палуж Краснап.

Э́КСТРЫННА, *прысл.* Тэрмінова, хутка. *Экстрынна нада дыстаць грошы, ато моіць прыдасьць.* Хвёдараўка Краснап.

Э́ТКІЙ, *займ.* Такі, гэтакі. *Эткыя дрэнныя пагода.* Хоцімск.

Э́ТЫЙ, *займ.* Гэты. *Эты, як яго, Іванёнык, кызаў мне пры яго.* Цёмны Лес Расілян.

ЭХ, *выкл.* Эх. *Эх ты, трышка, ты пубыяўся туды йціць!* Хвёдараўка Краснап. *Эх ты, глушня! Як палка — нічога ня чуіць.* Пірагова Мсціcл.

# Ю

ЮГА, -і, *ж.* Яга. *Юга старыя, дакуль мыўчала.* Бяседавічы Хоцім. *Ты ўжо сядзі, юга старыя.* Слабода Крыч.

Ю́ДА, -ы, *м.* Юда, здраднік, прадажнік. *Юда ты, прыдажнік! Ты чылавека ні за што ўтапіў.* Зарубец Крыч.

ЮДАЦКІЙ, *прым.* Юдацкі [здрадніцкі]. *Паступык юдацкій, нечыга скызаць, чэсный чылавек так бы ні пыступіў.* Б. Хутары Краснап.

Ю́ЛІЧКА, -і, *ж.* Уласнае імя, памянш. ад Юлька. *Ці чула ты, Юлічка, што пры цябе людзі гамоняць?* Нізькі Касцюк.

Ю́ЛЬКА, -і, *ж.* Уласнае імя Юлія. *Жаніся, бяры Юльку Васілёву, будзя добрыя жонка.* Азерцы Клім.

Ю́НЫШ, -а, *м.* Юнак. *Ты йшчэ юныш, мала чаго йшчэ ведыіш.* Палуж Краснап.

ЮПКА, -і, *ж.* Спадніца. *Прасі пашцы пашылі юпку.* Гібалы Касцюк. *Баба надзела новую юпку.* Машавая Бялынкав. *Ікая красівыя ў цябе юпка.* Гусарка Клім.

ЮР, -у, *м.* Юр [гіз]. *У цябе адзін юр на ўме; усё з дзяўчатымі б заігрываў.* Слаўнае Мсціcл.

ЮРІЦЬ, *дзеясл.* Юрыць, хацець, прагнуць. *Ён юріць жаніцца, а бацька ня хочыць, што йшчэ мылады.* Слаўнае Мсціcл.

Ю́РКА, -і, *м.* Уласнае імя Юрый. *Ці таў Юрка забіў зайца.* Сохапа Мсціcл.

ЮРНУ́ЦЬ, *дзеясл.* Сцебануць, выцяць. *Змоўкні! Ато калі юрну пугуй, дык аж патскочыш.* Кокатава Мсціcл.

ЮРО́К, юрка́, *м.* Кароценькая палачка з дзірачкамі ў абодвух канцах для звівання ў клубок нітак. *Вазьмі юрок ды змытай етыя ніткі.* Журбін Бялынкав. *Юркам лаўчэй мытаць ніткі.* Хвёдараўка Краснап. *Удзень мне нітку ў юрок, ато я ня віджу,*

*а мне нада мытаць ніткі на клубок.* Крычаў. *Бяз юрка кепска ніткі мытаць, у рукі рэжыць.* Буда Рагатая Мсцісл.

Ю́РЫЧКА, -а, *м.* Уласнае імя, памянш. ад Юрый. *Юрычка, дзівяцігадовы хлопчык, служыў пыдпаскым у пастуха.* Сохана Мсцісл.

ЮС, *выкл.* Юсь (вокрык на свіней). *Юс! Каб вас воўк — усі грады парылі.* Арцёмаўка Міласл.

Ю́ХА, -і, *ж.* Юха, кроў. *Адыдзі, бо калі дам, дык юхаю бальесься!* Белы Камень Бялынкав.

Ю́ШКА, -і, *ж.* 1. Юшка, кружок, якім зачыняюць комін. *Ці заложына юшка? Нешта ў хаці халодна.* Машавая Бялынкав. *Зачыні юшкай комін, ато гром грыміць.* Зоры Чэрык. 2. Юшка, навар з мяса або рыбы. *Мяса з міскі павыцягвалі, а юшка зыстылася.* Гібалы Касцюк. *Зварілі мы тыраноў, дык юшка ат іх дужа солна; нада було з кардохлімі зваріць.* Арцёмаўка Міласл.

# Я

Я, *займ.* Я. *Я нінаўцей знайшоў грошы.* Хвёдараўка Краснап. *Я табе кызаў, што так будзя.* Азерцы Клім.

Я́БЛЫКА, -а, *н.* Яблыка. *Пылажы яблыка ў пяколык, ніхай аттаніць, ато яно мерзла, і есьць нільзя.* Канічы Касцюк. *Куды ты кінуў агрызык яблыка?* Лешчынка Мсцісл. *Яблыкі ў саду ўжо дасьпелі.* Сохана Мсцісл. *Мы прыдалі тры капы яблык.* Тур'я Чэрык.

Я́БЛЫНКА, -і, *ж.* Яблыня. *Ны маім полі расьцець яблынка, дык як садоўка.* Хвёдараўка Краснап. *У нашым саду пяць дуль і двaццыць яблынак.* Бяседавічы Хоцім.

Я́БЛЫНЯ, -і, *ж. бат.* Яблыня. *Пысярёд лесу расьцець яблыня.* Слаўнае Мсцісл. *У нас адна яблыня ўсохла.* Дзягавічы Крыч. *На етый яблыні два гады ні було яблык.* Машавая Бялынкав.

Я́БЛЫНЬ, -і, *ж. бат.* Яблыня. *Адна яблынь зацьвіла, а другая йшчэ ні цьвіцець.* Арцёмаўка Міласл.

Я́БЛЫЧКА, -а, *н.* Памянш. ад яблыка. *Ах вы, кыстаглоды, усі яблычкі аб'елі.* Хвёдараўка Краснап.

Я́ВА, -ы, *ж.* Ява. *Дзіўныя была ява на небі: нейкія слупы жоўтыя і зялёныя стылі.* Палуж Краснап.

Я́ВЕР, [явар], -а, *м.* Аер. *У явер ходзюць у нас дзеці перад духам і пасыпаюць яго пы хаці і пы двару.* Пірагова Мсцісл. *Дзеці нырвалі явіру.* Кокатава Мсцісл.

ЯВІЦЦА, *дзеясл.* З'явіцца. *Як явіўся етый змуста, дык ізноў сыбралісь кыла яго лодыры.* Арцёмаўка Міласл.

Я́ВЫР, -а, *м.* 1. Аер. *Явыр расьцець больш кыла рэчкі. Як сьпячэш на ім хлеб, дык ніжнія скарынка тыкая смашныя і пахніць.* Добрае Мсцісл. *Трэба явыру нырваць, заўтры ж духа.* Палуж Краснап. 2. *бат.* Явар, таполя. *У нас расьцець явыр лі хаты.* Зяціна Мсцісл. *Віcока клён дзерўца, вісока, || Зелін явыр яшчэ вышы, || Сасонычка над усімі!* З нар. песні, М. Г. 57.

Я́ГЛІЦЦА, *дзеясл.* 1. Яглiцца, зайздросціць [квапіцца]. *Станіш яглiцца на чужое, дык сваё пацiраеш.* Сохана Мсцісл. *Дос табе яглiцца на чужое.* Дзягавічы Крыч. 2. Прасіць, енчыць. *Ні яглiсь так, усё роўна ні дасьць, бярі кузавок ды йдзі.* Бяседавічы Хоцім.

ЯГНЕ́НЫК, -нка, *м.* Ягнё. *Етый ягнёнык з чорный авечкі, яго резыць ні нада, ніхай гадуіцца — ета шлёнскій пароды.* Арцёмаўка Міласл.

ЯГО́Р, -а, *м.* Уласнае імя Ягор. *Ягор Шыбай у нас у дзярэўне сапожнік.* Пірагова Мсцісл. *Бацька збіраўся ў дарогу, а Ягор набіваў у пяхцерь сена.* Гібалы Касцюк. *Ягор — воччан: у яго пчолы вядуцца, і мёд заўсёды ёсьць.* Барысавічы Клім.

Я́ГРАСТ, -у, *м. бат.* Агрэст. *Яграст ні надта што смачныя ягады — пы мне хай саўсім іх ні будзіць.* Ушакі Чэрык. *Ягрысту нырваў поўну пазуху.* Канахоўка Клім.

Я́ГРУСТ, -у, *м. бат.* Агрэст. *Ягруст ужо пасьпеў — жоўтый і прасьвечываецца, што шкляный.* Пірагова Мсцісл. *Пайдзем нарвём ягрусту.* Новыя Капачы Мсцісл.

Я́ГРЫСНІК, -а, *м.* Кусты агрэсту. *За зіму сьнегым ягрыснік пылымала.* Зоры Чэрык.

Я́ГРЫСТ, -у, *м. бат.* Агрэст. *Ягрыст яшчэ кіслый, ні пасьпеў.* Халдзееўка Калінішчына. *Ягрыст расьце ў садзе.* Кажамякіна Краснап. *У нас у садзе німа ягрысту, толькі адны парэчкі.* Крычаў.

Я́ГЫДА, -ы, *ж.* Ягада [сунічына]. *Вунь адна ягыда расьцець, красныя.* Радзіонаўка Мсцісл. *Калінка, калінка, ягыда чырвона.* З нар. песні, М. Г. 12.

Я́ГЫДЫ ВАЎКОВЫЯ, *бат.* Крушына. *Ета ягыды ваўковыя, ня еш іх, бо жывот зыбаліць.* Буглаі Краснап.

Я́ГЫДКА, -і *ж.* 1. Памянш. ад ягада. *Адну ягыдку сышчапнула, а яму й таго жалка стала.* Нізькі Касцюк. *Пышла Юлічка ягыды браць, || Біручы ягыдкі, заснула, || Наехыў Іванька — ня чула.* З нар. песні, М. Г. 14. 2. Шчака. *Ужу старуха, а красныя ікая, ягыдкі так і цьвітуць, глядзі, што кроў з шчок пырсьніць.* Арцёмаўка Міласл.

ЯДА, -ы, *ж.* Яда, страва. *Без яды і без вады чалавек ня можа жыць.* Сохана Мсцісл. *Ны яду ён дужа пірябірліў.* Палуж Краснап.

ЯДЗЕ́НЬНЯ, -я, *н.* Яда, страва, харчаванне. *Якоя ў нас ядзеньня, штодзень камы.* Восаў Краснап.

ЯДОМЫЙ, *прым.* Ядомы, што ўжываецца для яды. *Еты грїб ні ядомы, ні бяры яго.* Арцёмаўка Міласл. *Ета трыва хуць і ны балоці, алі ядомыя: яе каровы добря ядуць.* Слаўнае Мсцісл.

ЯДРАНА, *прысл.* Марозна [ясна], без ветру. *Сяньні ядрына было зраньня, а к вечыру пычылася мяцеліца.* Хвёдараўка Краснап.

ЯДРІНЫЙ, *прым.* Халодны [ясны]. *Ты надзень шубку, як ны нашлег павядзеш, ато сяньні будзіць ядріныя ноч, зьмерзьніш.* Арцёмаўка Міласл. *Сяньня ноч так ядріна была, рыса, як вір.* Добрае Мсцісл. 2. Буйны, урадлівы. *Жыта сёліта надта ядрына, нада скора жаць, ато высыпацца пачнець.* Там жа.

ЯДРЭНЫЙ, *прым.* Халодны [ясны]. *Рызьвялі мы вогнішча і пылялі блізка ціпла, бо ноч была халодныя, ядрэныя.* Пірагова Мсцісл.

ЯЕЧКА, -а, *н.* Памянш. ад яйцо. *Табе нада яечка аблупіць ды яшчэ ў рот укласьці, а самому ні ласка?* Канічы Касцюк. *Я зьвіла была гнязьдзечка, || Я зьнісла была яечка, || Сылавей мае гнязьдзечка рызарый, || Ён мае яечка рызабій.* З нар. песні. Зарэчча Мсцісл.

ЯЕЧНЯ, -і, *ж.* Яечня. *Трэба спрягчы яечню.* Пірагова Краснап.

ЯЕШНЯ, -і, *ж.* Яечня. *Матка разьбіла дзісятык яец і спрігла яешню з салым.* Арцёмаўка Міласл.

ЯЗ, -а, *м.* Яз, рыбацкая перагародка на рэчцы з праходам, куды ставяць нерат. *Пыставілі яз, а нехта ўзяў ды разбурыў, і рыба ўцікла.* Цацэнь Арш.

ЯЗЫК, -а, *м.* Язык. *Ці табе язык зьбаліць? Скажы, ды ўсё!* Кокатава Мсцісл. *Укусіў сам сябе зы язык, што кроў пышла.* Гібалы Касцюк. *Карову б'юць за зык, а бабу — зы язык.* Хвёдараўка Краснап.

ЯЗЫЧОК, -чка, *м.* 1. Памянш. ад язык. *Ну й язычок жа ў гэтае бабы, а ніхай яе ліха, во брэшыць!* Камароўка Крыч. 2. Кліночак, што ўстаўляецца ў парэз у бярозе для таго, каб па ім сцякаў сок. *Язычок ськівуўсь ны зямлю, і сок пацёк пы карэ.* Хвёдараўка Краснап.

ЯЗЭП, -а, *м.* Уласнае імя Язэп. *Ясяў Язэп быў зьмерз, ды ачулілі, як сталі церць сьнегум.* Старае Сяло Мсцісл. *Язэп січас стаў вялікім нычальнікам.* Азерцы Клім.

ЯЗЭПІХА, і, *ж.* Язэпіха, жонка Язэпа. *Язэпіха купіла сабе кралі.* Людагошч Мсцісл. *У Язэпіхі быў яе брат з Мыластоўкі.* Палуж Краснап.

ЯЙЦО, -а, *н.* Яйцо. *Куріца кудахтыя, мабыць, яйцо зьнісла.* Камароўка Крыч. *Піськлёнык толькі што зь яйца вылупіўсь.* Буглаі Краснап.

ЯК, *прысл.* Як. *Як пасеіш, так і пажнеш.* Гібалы Касцюк. *Як ты да людзей, так і людзі ды цябе.* Лютня Мсцісл.

ЯК, *злуч.* Як. *Мой Міхась цігаіцца, як быглай, а дзелыць нічога ня хоча.* Добрае Мсцісл. *Неінач як аблічка выйшла, тут павінна быць болі.* Пірагова Мсцісл.

ЯКАВО, *прысл.* Якаво, як. *Якаво пажывае твая сястра.* Хоцімск.

ЯКБЫ, *злучн.* Быццам [нібы]. *А йна яшчэ і пытаецца, якбы й ня ведыя нічога.* Касперка Міласл.

ЯКБЫЦЦЫМ, *злучн.* Быццам бы. *Гавораць, што якбыццым выда ў Бесядзі пыднілась, што і пераехаць нельга.* Канічы Касцюк.

ЯКЕЙ, *займ.* Які. *Якей ён сын? Бацькі родныга ні пышкыдывай.* Парадзіна Мсцісл. *Што ж нам зьдзелыць, кылі німа лучшый хаты, ладна ўжу будзіць, якая ёсьць.* Арцёмаўка Міласл. *Якая ў цябе прыгожыя кохта.* Залачова Крыч. *Які смачны кумпяк.* Бялішчына Мсцісл. *Якая птушка, такая й песьня. Якоя семя, такоя і емя.* Гібалы Касцюк.

ЯКЕЙ-ТА, *займ.* [Нейкі], якісь [якісьці]. *Приходзіў якей-та дзядзька ды цябе, тата, скызаў, што йшчэ зайдзець увечырі.* Брылёўка Краснап.

ЯК-КОЛЕЧЫ, *прысл.* Як-колечы, як-кольвек, як-небудзь. *Як-колечы ратуйця, ато адзін ні дам рады.* Мацутаўка Расняп.

ЯК-НЕБУДЗЬ, *прысл.* Як-небудзь. *Як-небудзь нада дыстаць грошы, ато ўпусьціш случый.* Белы Камень Бялынкав.

ЯК-НІЯК, *прысл.* [Усё-такі], усё ж. *Як-ніяк, а трэба ў Клімавічы ехыць.* Маластоўка Краснап.

ЯКРАЗ, *прысл.* Якраз. *Ішоў я пы лясу і якраз нытрапіў ны выўчыныя логыва.* Бяседавічы Хоцім. *Гэты капыл якраз ны маю нагу.* Тур'я Чэрык.

ЯКРУС, -а, *м.* Агрэст. *Якрус сёліта буйнэй.* Маластоўка Краснап.

ЯК СЛОВА. Сапраўды. *Як слова тут нехта быў.* Кокатава Мсцісл. *Як слова Іван сяньні хадзіў у вучылішча?* Канічы Касцюк.

ЯКСЯ, *прысл.* Неяк, адзін раз. *Якся раз бацька паехаў у горыд.* Палуж Краснап.

ЯКУБ, -а, *м.* Уласнае імя Якуб. *Якуб не такі злый, ён атходны чылавек.* Канічы Касцюк. *Якуб, зыпражы кыня ў калёсы!* Чыгрынаўка Расняп.

ЯКЫУ, -ва, *м.* Уласнае імя Якаў. *Як я віжу, ты ўжо, Якыў, з пынталыку зьбіўся.* Канічы Касцюк. *Мальцы ў Якыва ўсю грушу абтрэсьлі.* Галкавічы Мсцісл.

ЯК-ЯК, *прысл.* Абавязкова. *Дохтырша скызала, каб як-як бы пувязьлі хворыга ны пірацыю.* Тур'я Чэрык.

ЯЛАУКА, -і, *ж.* Ялаўка, ялавіца. *Наша карова летась цялілась, а сёліта ялаўка.* Старае Сяло Мсцісл.

ЯЛДОН, -а, *м.* [Боўдзіла], балда. *Ялдон ты, ялдон, што ты надзелый?* Хвёдараўка Краснап.

ЯЛЕНЕЦ, -нца, *м. бат.* Яленец, яловец [ядловец]. *Тут яленец расьцець вісокій, як дрэва.* Дзягавічы Крыч. *У етым лесі ёсьць яленец.* Хвёдараўка Краснап. *Апріч ёлкі і сасны, расьцець яшчэ і яленец.* Слаўнае Мсцісл.

ЯЛЕНІЦЬ, *дзеясл.* Станавіцца ёлкім, горкім. *Сала яленіць. Масла пычало яленіць.* Брылёўка Краснап.

ЯЛОВЫЙ, *прым.* Яловы. *Ета кол яловы.* Белы Камень Бялынкав. *Пуня зроблена з яловыга дрэва.* Сідараўка Краснап.

ЯЛЫВІНА, -ы, ж. Ялавіна, няворнае поле, запушчаная паласа. *Чыя ета ялывіна сярод жыта ляжыць?* Жэраціно Крыч. *Ны ялывіну ныкладу гною і пасею што-небудзь, хай расьцець.* Хвёдараўка Краснап.

ЯЛЫВІЦЬ, *дзеясл.* Ялавець, ляжаць неўзаранай, незасеянай (пра зямлю). *Ні змог пасеіць я, кыня ні было, дык уся зімля ялывія.* Антонаўка Краснап.

ЯЛЫВІЧЫНА, -ы, ж. Ялавічына, мяса з каровы. *Мы цяпер ялывічыну ядзім, карову сваю зарезылі.* Арцёмаўка Міласл.

ЯЛЫЎКА, -і, ж. Ялаўка [ялавіца]. *Етыя карова ялыўка, а тая — даёнка.* Хвёдараўка Краснап.

ЯМА, -ы, ж. Яма. *Нада ямы пыкыпаць лі дарогі, ато заезьдзяць жыта.* Барысавічы Клім.

ЯМКА, -і, ж. 1. Пячурка, месца, куды заграбаюць жар з печы. *Пыглядзі там ў ямкі, можа жар ёсць.* Бяседавічы Хоцім. 2. Памянш. ад яма. *Вырыў ямку на лісіцу, мо ўваліцца.* Палуж Краснап.

ЯН, Яна, м. Уласнае імя Ян, Янка. *Наш Ян жывець заможна.* Кокатава Мсцісл.

ЯНА, *займ.* Яна. *Яна етыга зыбыжаліла, як зельля якога.* Маластоўка Краснап.

ЯНІНА, -ы, ж. Уласнае імя Яніна. *Яніна, схадзі, ты, дзетка, прынясі вады вядзерца.* Машавая Бялынкав.

ЯНКА, -і, м. Уласнае імя Янка. *Янка зыхварэў ны цяцюху.* Чыгрынаўка Расняп. *Янка, спляці мне лапці.* Гліпь Касцюк. *У Янкі сяньні хаўтуры пу бацьку.* Чыгрынаўка Расням.

ЯНКЕЛЬ, -я, м. Уласнае імя Янкель. *Наш Янкель пабудаваў у горыдзі дрыўляны дом.* Лешчынка Мсцісл.

ЯНЫЎКА, -і, ж. Гатунак бульбы. *Яныўка сёліта ўрадзіла, хопіць і сабе і прыдаць можна.* Хвёдараўка Краснап.

ЯР, яра, м. Яр, вялікі роў, вымыты вадою. *Зы дзярэўній яр, дык січас там ні піяедзіш. Мы зьбіралі шчавіль ны яру.* Нізькі Касцюк.

ЯРАВІНА, -ы, ж. Яравое поле. *Яравіну я ўжо адзьдзелыў, цяпер на пыпар можна йці.* Палуж Краснап.

ЯРАВІШЧА, -а, н. Поле пад яравыя пасевы. *Агароды ні гароджаны, яравішча ні пахына, і ні знаю, за што ўзяцца.* Пірагова Мсцісл.

ЯРКА, -і, ж. Ярка, маладая авечка, што ягнілася да году. *Нада абстрыч яшчэ авечку, барына і ярку.* Арцёмаўка Міласл. *Сёньня ярка ні прышла с поля.* Людагошч Мсцісл.

ЯРКА, *прысл.* Ярка, зырка. *Сухея дровы гыраць ярка.* Куляшоўка Клім.

ЯРКІЙ, *прым.* Яркі, зыркі. *Укруці трохі лямпу, ато надта агонь яркі.* Куляшоўка Краснап.

ЯРЛЫЧОК, -чка, м. Запіска, цыдулька, рэцэпт. *Доктар даў ярлычок ув аптэку.* Хвёдараўка Краснап.

ЯРМЫЛЫК, -лка, м. Ярмарка, кірмаш. *Бальшэй быў ярмылык у Мыластоўцы.* Палуж Краснап.

ЯРУШКА, -і, ж. 1. Ярка-авечка. *Наша авечычка-ярушка нешта зыхварэла.* Барысавічы Клім. [2. Яравая пшаніца, ярыца].

ЯРЫЙ, *прым.* Ясны, светлы. *Якія ў яго прыгожыя, ярыя вочы.* Палуж Краснап.

ЯРЫЦА, -ы, ж. Ярыца, яравая пшаніца. *Прышла пыра сеяць ярыцу.* Чыгрынаўка Расняп. *З азімкі хлеб лепшы, як зь ярыцы.* Шамава Мсцісл.

ЯРЬ, ярі, н. Яравыя пасевы. *Пайду пыгляжу, як-то ярь сёліта красуецца.* Новыя Капачы Мсцісл. *Покуль што атпачываем: жыта дыжалі, а ярі няма сьпелай.* Юшкі Мсцісл.

ЯСЕН, -а, м. Уласнае імя Ясён. *Ясён зьдзелыў новый вульляк.* Касцюковічы.

ЯСЕНЬ, -я, м. бат. Ясень. *Лі нашый хаты расьцець вялікій ясень.* Машавая Бялынкав.

ЯСНЫЙ, *прым.* Ясны. *Ясны месяц, ясныя неба.* Брылёўка Краснап. *Ноч сёньня была тыкая ясныя, зорныя.* Сохана Мсцісл.

ЯСТРЫБ, -а, м. [Ястраб], каршун. *А кыш з гароду, ястрыб вас зыдзяры.* Канічы Мсцісл.

ЯСЫЧКА, -і, ж. Ласкальны зварот, ясачка. *Мамычка, ясычка мыя, дыражэнькыя, купі мне хустку.* Слаўнае Мсцісл.

ЯСЬ, Яся, м. Уласнае імя Ясь. *Ня йдзі-ка ты, Ясь, ны вячорку, пысядзі лепей дома.* Добрае Мсцісл.

ЯСЬЛІ, -яў, мн. л. Яслі, загародка ў хляве каля сцяны, у якую кладуць сена. *Пыкладзі сена ў ясьлі — ніхай коні ядуць.* Палуж Краснап.

ЯСЯНОВЫЙ, *прым.* Ясяновы. *У етым катку вобад ясяновы.* Ташна Клім.

ЯЎМЕН, -а, м. Уласнае імя Яўмен. *Яўмен з Міхасём паехалі ў лес.* Канахоўка Клім. *Вучылішча ікраз найпроці хаты Яўмена.* Тур'я Чэрык.

ЯХЫЦЬ, *дзеясл.* Яхаць, брахаць. *Сыбака яхыя, відна, зайца гыняя.* Палуж Краснап.

ЯЧМЕНІШЧА, -а, н. Ячменішча, поле, дзе быў ячмень. *Ны ячменішчы шмат травы, гані туды карову.* Іванаўка Хоцім.

ЯЧМЕНЬ, -ю, м. Ячмень. *Ячмень ужо дасьпеў, жаць нада, ато высыпацца тады будзе.* Дзягавічы Крыч. *Ссып ячмень у пірярэжчык.* Хвёдараўка Краснап. *Асьцень зь ячменю ў вока пупаў.* Пірагова Мсцісл.

ЯЧУК, -а, м. 1. Укормленае парасё. *Дзеці, як ячукі: поўныя, здаровыя.* Хвёдараўка Краснап. [2. Еча, страravод].

ЯЧЫНЬНЯ, -я, н. Ячменішча [ячнішча]. *Толькі сажнём ячмень — січас ны ячыньня прівадзі пасьвіць коні.* Слаўнае Мсцісл. *Пусьці карову ны ячыньня.* Хвёдараўка Краснап. *Пы гарохыўю, пы ячыньню ‖ Ходзіць голуб із галубычкыю.* З нар. песні, М. Г. 105.

ЯЧЭЙКА, -і, ж. [Ячэйка], гурток, частка арганізацыі. *Раньшы тут была панскыя лажніца, а цяпер саўхоскыя ячэйка.* Лютня Краснап.

ЯШКА, -і, м. Уласнае імя Якаў. *Яшку сяньні аграбілі ны дарозі.* Сапрынавічы Мсцісл.

ЯШНЫЙ, прым. Ячны, ячменны. Ныварыла крупені з яшных круп з бульбаю. Парадзіна Мсцісл. Яшныя салома. Хвёдараўка Краснап.

ЯШЧЫК, -а, м. Аднадонная бочка, высокі цэбар з крышкай. Мама нысаліла поўны яшчык агуркоў. Глінь Калінінпічына.

ЯШЧЫРКА, -і, ж. Яшчарка. У етую норку пабегла яшчырка зялёныя. Тур'я Чэрык. Мышатнік ловіць мышэй і яшчырык. Хвёдараўка Краснап.

ЯШЧЭ, прысл. Яшчэ. Дай яму яшчэ раз, штоб помніў. Зяціца Мсцісл. Ты яшчэ несмысель, нічога не разумееш. Гібалы Касцюк. Во яшчэ ныхаба ны маю гылаву нывізалысь. Галоўчыцы Калінінпічына. Ці ты яшчэ сьпіш? Ня высьпісься ніяк! Лешчынка Мсцісл.

# ЗМЕСТ


І. К. Бялькевіч і яго слоўнік. І. К. Германовіч, Б. С. Лапаў . . . . 5

Аб падрыхтоўцы слоўніка да выдання. М. В. Бірыла, А. А. Крывіцкі . . 13

Умоўныя скарачэнні . . . . . 15

Раёны . . . . . . . . . . . 15

А . . . . . . . . . . . . . 16
Б . . . . . . . . . . . . . 78
В . . . . . . . . . . . . . 101
Г . . . . . . . . . . . . . 130
Д . . . . . . . . . . . . . 146
Е . . . . . . . . . . . . . 163
Ё . . . . . . . . . . . . . 164
Ж . . . . . . . . . . . . . 164
З . . . . . . . . . . . . . 171
І . . . . . . . . . . . . . 213
К . . . . . . . . . . . . . 216
Л . . . . . . . . . . . . . 245
М . . . . . . . . . . . . . 257
Н . . . . . . . . . . . . . 271
О . . . . . . . . . . . . . 299
П . . . . . . . . . . . . . 300
Р . . . . . . . . . . . . . 379
С . . . . . . . . . . . . . 398
Т . . . . . . . . . . . . . 440
У . . . . . . . . . . . . . 450
Ф . . . . . . . . . . . . . 468
Х . . . . . . . . . . . . . 469
Ц . . . . . . . . . . . . . 479
Ч . . . . . . . . . . . . . 487
Ш . . . . . . . . . . . . . 494
Ы . . . . . . . . . . . . . 506
Э . . . . . . . . . . . . . 506
Ю . . . . . . . . . . . . . 506
Я . . . . . . . . . . . . . 507

На белорусском языке

*Белькевич Иван Кондратьевич*

**КРАЕВЫЙ СЛОВАРЬ ВОСТОЧНОЙ МОГИЛЕВЩИНЫ**

Издательство «Наука и техника»
Минск, Ленинский проспект, 68.

Рэдактар *В. Савельева*
Мастацкі рэдактар *В. Саўчанка*
Вокладка *Н. Бяспалава*
Тэхнічныя рэдактары
*Л. Максімава, А. Атлас*
Карэктар *Ф. Анісаровіч*

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР

Здадзена ў набор 19/I-70 г. Падпісана ў друк 3/VII-70 г. Фармат $70 \times 108^1/_{16}$. Папера друк. № 2. Друк. арк. 32. Ум. друк. арк. 44,8. Уч.-выд. арк. 68. Выд. зак. 809. Друк. зак. 154. Тыраж 1000 экз.
Цана 2 р. 02 к.

Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржкамітэта Савета Міністраў БССР па друку. Мінск, Ленінскі праспект, 68.